БЕЛАРУСКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ

# ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ

## ТОМ 2 БЕЛІЦК-ГІМН




МІНСК
«БЕЛАРУСКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ»
ІМЯ ПЕТРУСЯ БРОЎКІ
1994

ББК 63.3(2Б)я2
Э 68
УДК 947.6

## НАВУКОВЫЯ КАНСУЛЬТАНТЫ:

Я. К. АНІШЧАНКА,
В. В. АНТОНАЎ,
Я. І. БАРАНОЎСКІ,
У. А. ВАСІЛЕВІЧ,
Г. Я. ГАЛЕНЧАНКА,
В. П. ГРЫЦКЕВІЧ,
С. У. ДУМІН,
А. А. ЕГАРЭЙЧАНКА,
У. Ф. ІСАЕНКА,
Дз. У. КАРАЎ,
Л. А. КАРНІЛАВА,
А. С. КАРОЛЬ,
А. К. КАЎКА,
Г. А. КАХАНОЎСКІ,
І. П. КРЭНЬ,
Ю. А. ЛАБЫНЦАЎ,
У. Ф. ЛАДЫСЕЎ,
А. С. ЛІС,
А. М. ЛІТВІН,
П. А. ЛОЙКА,
А. Г. МАЙСЯЁНАК,
А. М. МІХАЛЬЧАНКА,
У. М. МІХНЮК,
М. І. МУШЫНСКІ,
В. Л. НАСЕВІЧ,
М. В. НІКАЛАЕЎ,
У. С. ПАСЭ,
М. Ф. ПІЛІПЕНКА,
Т. С. ПРОЦЬКА,
В. Н. РАБЦЭВІЧ,
Г. М. САГАНОВІЧ,
А. М. СІДАРЭВІЧ,
У. А. СОСНА,
М. Ф. СПІРЫДОНАЎ,
Г. І. СУРМАЧ,
А. А. ТРУСАЎ,
П. У. ЦЕРАШКОВІЧ,
А. К. ЦІТОЎ,
В. С. ЦІТОЎ,
В. А. ЧАМЯРЫЦКІ,
В. М. ЧАРАПІЦА,
М. М. ЧАРНЯЎСКІ,
В. Ф. ШАЛЬКЕВІЧ,
М. Ф. ШУМЕЙКА,
З. В. ШЫБЕКА,
І. А. ЮХО.

Мастак *Э. Э. Жакевіч.*

Э $\frac{9470600000 - 11}{\text{М } 318\ (03) - 94}$ 32 — 94

ISBN 5-85700-142-0 (т.2)
ISBN 5-85700-073-4

**БЕ́ЛІЦК**, рабочы паселак у Рагачоўскім р-не. Цэнтр Беліцкага пасялковага Савета. За 33 км на ПдУ ад Рагачова, 17 км ад чыг. ст. Салтанаўка на лініі Бабруйск — Гомель. Утвораны 12.1.1960 з пасёлка торфапрадпрыемства «Беліцкае», які існаваў з 1948. У 1970 1,2 тыс. ж. Торфапрадпрыемства, паўбрыкетны з-д, электрамеханічны цэх, філіялы з-да «Дыяпраектар» і Жлобінскай швейнай ф-кі, комплексны прыёмны пункт камбіната бытавога абслугоўвання. Сярэдняя школа, дзіцячыя сад і яслі, клуб, б-ка, аддзяленне сувязі. У Б. брацкая магіла сав. воінаў і партызан, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну.

**БЕ́ЛІЦКАЯ АБАРО́НА 1943—44** у Вялікую Айчынную вайну, баі партызанскіх брыгад Сенненскай (камандзір В. С. Лявонаў) і 1-й імя К. С. Заслонава (камандзір Л. І. Сяліцкі) па абароне аэрадрома ў саўгасе «Беліца» Сенненскага р-на ў снеж. 1943—маі 1944. Праз гэты аэрадром ішло забеспячэнне з сав. тылу партызан Сенненскага і суседніх раёнаў (за ноч прымаў да 10 самалётаў з грузамі). Для ліквідацыі аэрадрома акупанты 20.12.1943 накіравалі карны батальён (каля 300 салдат). Партызаны атрадаў № 6 і імя К. А. Хаіркізава Сенненскай брыгады ўтрымалі свае пазіцыі, адбілі 3 атакі ворага, знішчылі каля 50 гітлераўцаў і адкінулі ворага да в. Даганаўка. 3—5.2.1944 вораг (каля 600 салдат, батарэя 76-мм гармат) пачаў наступленне з Даганаўкі на абарончыя рубяжы партызан каля саўгаса «Беліца». Наступленне батальёна карнікаў ад в. Латыгаль было спынена атрадамі імя Аляксандра Неўскага і імя Чапаева Сенненскай брыгады. Вораг асн. сіламі авалодаў перадполлем партыз. абароны ў раёне в. Новая Беліца і 1,5 гадз прамой наводкай абстрэльваў умацаванні партызан. Атаку гітлераўцаў партызаны адбілі, на флангах у контрнаступленне перайшлі атрады імя Суворава і імя А. М. Захарава Сенненскай брыгады і атрады «Аршанец» і «Перамога» брыгады імя Заслонава. Страціўшы каля 100 салдат забітымі і паранёнымі, вораг адышоў у раён в. Нямойта, пакінуўшы абоз, палявыя кухні і частку боепрыпасаў. Сканцэнтраваўшы ў раён. частцы раёна мотастралковую дывізію і зводны полк з паліцэйскіх гарнізонаў Сенненскага, Багушэўскага і Бешанковіцкага р-наў, 16.3.1944 фашысты пачалі наступленне і на 5-ы дзень баёў адцяснілі партызан на 3 ад аэрадрома. Партызаны стварылі новую паласу абароны на зах. беразе р. Усвейка і ўтрымлівалі яе да мая 1944. *У. С. Пасэ.*

**БЕ́ЛІЦКІ ПАВЕ́Т**, адм.-тэр. адзінка ў 1777—1852 у Магілёўскай (да 1796 і з 1802) і Беларускай губ. Утвораны паводле Указа імператрыцы Кацярыны II ад 22.3.1777 у адказ на прашэнне ўладальніка Гомеля графа П. А. Румянцава-Задунайскага аб перанясенні пав. цэнтра з Гомеля. Цэнтрам павета стала сяло Беліца (за 20 км ад Гомеля), якому з гэтай нагоды нададзены статус горада. У 1786 пав. адміністрацыя пераехала ў спецыяльна пабудаваны для гэтага г. *Новая Белица*. Новы ўладальнік Гомеля кн. І. Ф. Паскевіч-Эрыванскі дамогся пераводу пав. цэнтра зноў у Гомель (гл. *Гомельскі павет*). *М. І. Камінскі.*

**БЕ́ЛІЦКІ ЦУКРО́ВЫ ЗАВО́Д**. Дзейнічаў у 1831—82 (паводле інш. звестак да 1890-х гадоў) у мяст. Беліца Гомельскага пав. Магілёўскай губ. (цяпер у межах г. Гомель), з'яўляўся буйнейшым цукровым прадпрыемствам на Беларусі. Уладальнік граф Ф. Паскевіч, арандатар купец Мельнікаў (былы ад'ютант Паскевіча). Выпрабляў цукар-пясок. У 1839 з-д згарэў. У 1840 пастаўлены новы 2-павярховы будынак, устаноўлены 2 паравыя рухавікі (магутнасцю 70 к. с.), пабудаваны драўляны барак для рабочых. У 1851 працавала 80 рабочых (пераважна прыгонныя), у 1864—175, у 1879—232. У 1859 на з-дзе працаваў майстар-цукравар з Гамбурга, мясц. майстры: каваль, слесар, меднік, механік. На выраб цукровага пяску выкарыстоўваліся буракі з зямель уладальніка і купленыя ў суседніх маёнтках. Уласнымі былі вапна, касцяны вугаль, дровы. У 1851 было перапрацавана 90 тыс. пудоў цукровых буракоў, з іх 70 тыс. пудоў уласных. Дзейнічаў 3—4 месяцы ў год. У 1879 выраблена 15 тыс. пудоў цукру, у 1881 — 19 тыс. пудоў. Закрыты з-за канкурэнцыі таннага цукру з Украіны. *М. Ф. Болбас.*

**БЕЛКАЛГАСЦЭ́НТР**, Беларускі цэнтральны саюз сельскагаспадарчых калектываў, рэсп. кааператыўная арг-цыя ў 1928—32. Створаны ў Мінску на *Другім усебеларускім з'ездзе калгасаў 1928* як Усебел. саюз с.-г. калектываў (Белкалгассаюз), у студз. 1930 перайменаваны ў Б. Меў на мэце стварэнне, кіраўніцтва і арганіз.-гасп. абслугоўванне калгасаў. Органамі кіраўніцтва Б. з'яўляліся Усебел. з'езд с.-г. калектываў, а таксама савет і праўленне, якія выбіраліся з'ездам. Структура апарату Б. напачатку складалася з сакратарыята і 4 аддзелаў (арганіз.-інструктарскі, планава-вытв., нарыхтоўчы і крэдытна-фінансавы), у студз. 1930 было 7 аддзелаў (груп). З перайменаваннем Белкалгассаюза ў Б. пашыраны і яго функцыі. Апарат Б. кантраляваў гасп. дзейнасць калектываў, перапрацоўку і збыт імі сваёй прадукцыі, культ.-масавую работу, распрацоўваў правілы ўнутр. распарадку, спаганняў з калгасаў запазычанасці па збожжанарыхтоўках. Фінансаванне Б. вялося з дзярж. бюджэту і не залежала ад вынікаў дзейнасці гаспадарак, якія ён аб'ядноўваў. Ва ўмовах цэнтралізаванага размеркавання крэдытаў, с.-г. тэхнікі і інш. сродкаў, недахопу кваліфікаваных спецыялістаў гэты фактар садзейнічаў таму, што вытв. калектывы апынуліся ў поўнай залежнасці ад вышэйшых органаў. Маючы значныя паўнамоцтвы, апарат Б. і падпарадкаваных яму акр. саюзаў практыкаваў умяшанне і ў арганіз. і ў дробныя гасп. пытанні. На пач. 1930-х гадоў, калі веска станавілася калгаснай, ва ўмовах узмацнення цэнтралізацыі, Б. стаў непатрэбным элементам адм.-загаднай сістэмы і ў кастр. 1932 ліквідаваны. Яго функцыі перададзены Наркамату земляробства БССР. *С. М. Ходзін.*

**БЕЛНАЦКО́М**, гл. *Беларускі нацыянальны камісарыят.*

**«БЕЛОРУ́ССКАЯ ЖИЗНЬ»**, штодзённая грамадска-паліт. газета праваакцябрысцкага кірунку, орган *Беларускага таварыства*. Выдавалася 9(22).2.1909 і з 1(14).1 да 9(22).8.1911 у Вільні на рус. мове. Выдавец А. С. Кудзерскі планаваў выданне газеты на 2 мовах (рускай і беларускай), але, атрымаўшы дазвол, адмовіўся ад беларускамоўнага варыянта. Рэдактары Л. М. *Саланевіч*, П. В. *Каранкевіч*. Газета, як і Бел. таварыства, стаяла на пазіцыях *заходнерусізму*, адмаўляла самабытнасць бел. народа, выступала за яго русіфікацыю, паступовую замену бел. мовы рускай. Шляхам сац. дэмагогіі і паліт. мімікрыі выдаўцы газеты спрабавалі падладзіцца пад бел. нац.-культурны рух, перахапіць ідэі газ. *«Наша ніва»*, надаўшы ім супрацьлеглы, вялікадзярж.-шавіністычны сэнс. У пробным нумары (9.2.1909) выдаўцы змясцілі статут Бел. таварыства і абвясцілі сябе органам «свядомай» бел. інтэлігенцыі, а эпоху ВКЛ — «самым светлым перыядам у гісторыі нашага народа». Аднак у арт

Саланевіча «Нашае нацыянальнае самавызначэнне і наша пазіцыя ў польскім пытанні» (той жа нумар) адмаўлялася нац. і культурная самастойнасць беларусаў як «непадзельнай часткі рускага народа». За публікацыю паведамлення «Пакаранне смерцю» ўлады арыштавалі тыраж пробнага нумара і прыпынілі выданне. Аднавіўшы газету ў студз. 1911, Саланевіч і новы выдавец Каранкевіч працягвалі лінію на русіфікацыю Беларусі. Разглядаючы сац. і нац. структуру насельніцтва краю, «Б. ж.» абвясціла беларусаў «вялікай рускай большасцю Паўночна-Заходняга краю», запэўнівала чытачоў, быццам бел. мова — гэта руская, часткова засмечаная польскімі і інш. ўплывамі, і пры «нармальным развіцці» яна «пяройдзе ў рускую народную мову» (1.1.1911). Паводле логікі выдаўцоў, усе палякі ў краі — «клас памешчыкаў», яўрэі — «клас мяшчанскі, гандлёвы, гарадскі», а беларусы («рускія») — «клас выключна сялянскі, сельскі» (15.1.1911). У цыкле артыкулаў «Беларусы ў мінуўшчыне» ананімны аўтар, скажаючы гісторыю, прыпісваў беларусам стварэнне «рускай культуры» ў ВКЛ і ператварэнне яго ў «рускую дзяржаву». Газета з правых пазіцый крытыкавала царскі ўрад за перабольшванне ролі «розных беларускіх суполак», створаных быццам бы групоўкай «польскай вучнёўскай моладзі» і некалькімі прадстаўнікамі з «велікарускага асяроддзя» (16.1.1911). Карыстаючыся гэтай шавіністычнай меркай, «Б. ж.» шальмавала «Нашу ніву», называла бел. пісьменнікаў і інш. дзеячаў нац. культуры палякамі, якія апрануліся ў беларускую світку (15.6.1911). Патрабавала ад беларусаў схіліцца перад памяццю М. М. Мураўёва — душыцеля паўстання 1863—64, расхвальвала палітыку П. А. Сталыпіна. Газета атрымала прывітальны ліст ад лідэра партыі акцябрыстаў А. І. Гучкова (15.1.1911), публікавала інфармацыю пра с.-г. выстаўкі, друкавала (у недасканалых запісах) фрагменты бел. песень, паданняў, этнагр. апісанняў, змяшчала ўрыўкі з хрэстаматыйных твораў рус. пісьменнікаў. З 10 (23).8.1911 выходзіла пад назвай *«Северо-Западная жизнь»*. *У. М. Конан.*

**«БЕЛОРУ́ССКАЯ ЗЕМЛЯ́»**, грамадска-палітычная, літаратурная і пазапартыйна-нар. газета. Выдавалася ў 1918 у Мінску на рус. мове. Афіцыйны выдавец — Саюз бел. арг-цый, фактычна з'яўлялася органам *Народнага сакратарыята Беларусі*. Заснавана 20.2.1918 (планавалася выдаваць 2 разы на тыдзень), 1.3.1918 выйшаў 1-ы нумар. Друкавала дакументы выканкома Савета Усебел. з'езда, пастановы, загады і аб'явы Народнага сакратарыята Беларусі і падначаленых яму органаў, артыкулы дзеячаў нац. руху. Апублікавала (№ 1) «Мемарандум Народнага сакратарыята Беларусі прадстаўніку Вышэйшай германскай акупацыйнай улады», «Устаўную грамату да народаў Беларусі», загад № 1 выканкома Савета Усебел. з'езда, артыкул А. І. Цвікевіча «Лёс Беларусі» і інш. Выйшла некалькі нумароў газеты. *П. К. Башко.*

**«БЕЛОРУ́ССКАЯ КРИНИ́ЦА»**, эканамічна-гаспадарчы часопіс. Выдаваўся ў 1918—19 у Петраградзе Бел. аддзелам Камісарыята па справах нацыянальнасцей Саюза Камун Паўночнай вобл. (гл. *Петраградскае аддзяленне Беларускага нацыянальнага камісарыята)* на рус. мове. Рэдактар І. М. Баранкевіч. Друкаваў распараджэнні Сав. ўрада, хроніку эканам. жыцця. Змешчаны артыкулы «Абавязак савецкага ўрада» і «Белавежская пушча» Баранкевіча (пад псеўд. Беларус), «Сонца Беларусі ўзыходзіць» і «Народная гаспадарка Беларусі» А. Ц. Вазілы (пад псеўд. Клім Злобіч, Антон Хатыня), «Нарысы па зямельным пытанні» Я. С. Канчара, «Да пытання пра неабходнасць пашырэння на Беларусі сельскагаспадарчай адукацыі» Дз. М. Сабалеўскага і інш. *В. У. Скалабан.*

**«БЕЛОРУ́ССКАЯ ПРА́ВДА»**, агітацыйна-прапагандысцкая газета Палітаддзела РВС Зах. фронту. Выдавалася з 17.5 да 17.6.1920 у Смаленску на рус. мове. Паводле тактычных меркаванняў выходзіла як орган партызан-камуністаў. Распаўсюджвалася сярод мясц. насельніцтва на тэрыторыі, акупіраванай польскімі войскамі. Выданне газеты было абумоўлена падрыхтоўкай летняга контрнаступлення Чырв. Арміі. У № 1 гаварылася, што «газета ставіць сваёй задачай усяляк садзейнічаць працоўным Беларусі ў іх барацьбе са сваімі ворагамі, памешчыцкай шляхтай і яе агентамі — польскімі жандарамі і генераламі». Матэрыялы «Б. п.» былі скіраваны на ўздым партыз. барацьбы ў тыле польскіх войск, дапамогу Чырв. Арміі, пераможнае наступленне якой забяспечыць аднаўленне Сав. улады і еднасць з Сав. Расіяй (перадавыя артыкулы «Да працоўных Беларусі», «Без страху наперад!», «Дружна наперад і мы пераможам!», «Нашы задачы», прапагандысцкія нарысы «Савецкая ўлада — гэта наша ўлада», «Зямля належыць вольнаму працоўнаму селяніну» і інш.). Друкавала матэрыялы інфармацыйна-інструкцыйнага характару («У лясы», «Як перамагчы», «Як арганізаваць партызанскі атрад», «Дзесяць запаведзяў чырвоных партызан»), нататкі пра ход партыз. барацьбы пад рубрыкай «Як мы змагаліся за сваю свабоду». На яе старонках змяшчаліся вершы, сатырычныя куплеты пра польскіх захопнікаў, словы на матывы вядомых песень «Хопіць крыві, катаванняў, стогнаў», «Партызанская марсельеза» і інш. Агітацыйны кірунак газеты дапаўняўся звесткамі пра зверствы акупантаў і заклікамі да помсты. Кожны нумар заклікаў чытаць і распаўсюджваць «сваю чырвоную газету». Амаль усе публікацыі агітацыйна-паліт. і інструкцыйнага характару друкаваліся пад псеўданімамі Партызан А. Вольны, Чырвоны партызан, Вольны Беларус, літаратурныя — за подпісамі С. Фірына (псеўд. Батрак Сямён, Фірынюк). Вядома 4 нумары: ад 17.5, 31.5, 7.6 і 17.6.1920. *М. Я. Сяменчык.*

**«БЕЛОРУ́ССКАЯ РА́ДА»**, вайскова-грамадская і літ. газета, орган Выканаўчага камітэта *Цэнтральнай Беларускай вайсковай рады*. Выдавалася ў Мінску з 25.11(8.12).1917 да 5.2.1918 на рус. мове, змяшчаліся таксама матэрыялы на бел. мове. Гал. рэдактар Я. А. Ярушэвіч. Газета адлюстроўвала нац.-кансалідацыйныя працэсы ў бел. грамадстве на тэр. Беларусі і за яе межамі, асабліва сярод беларусаў у вайск. фарміраваннях былой царскай Расіі, імкненне бел. народа да нац.-дзярж. самавызначэння з уласным войскам, прапагандавала свабодныя, раўнапраўныя адносіны на падставе федэратыўнага саюза з інш. народамі сав. Расіі. Публікацыі Ярушэвіча, К. Езавітава, І. Краскоўскага, Ф. Шантыра, аўтараў пад крыптанімамі Л. Б. (А. Смоліч?), Х., а найбольш матэрыялы Усебел. з'езда (снеж. 1917) сведчылі пра шматслойнасць, сацыяльна-паліт. супярэчлівасць тагачаснага бел. нац.-вызваленчага руху, яго 2 асн. плыні: ліберальна-бурж. і сацыялістычнай. На яе старонках змешчана рэзалюцыя з'езда пра ўтварэнне «краёвай улады ў асобе Усебеларускага Савета сялянскіх, салдацкіх і рабочых дэпутатаў» як «часовага органа народнай улады» з мэтаю абароны «цэласнасці, непадзельнасці Беларусі і неадрывання яе ад Расійскай Федэрацыі» [13(26).1.1918, № 1]. Шэраг публікацый звязаны з пратэстам супраць разгону Усебеларускага з'езда і арышту яго прэзідыума з боку СНК Зах. вобласці і фронту. Гэтую акцыю газета расцаніла як антыдэмакр., бо яна супярэчыла праву народа на самавызначэнне, якое праклnetwork было сав. уладай. На старонках газеты друкаваліся таксама артыкулы па гісторыі і эканоміцы Беларусі (Ярушэвіч, А. Уласаў), творы М. Багдановіча, Я. Купалы, А. Гаруна, І. Дварчаніна, Л. Родзевіча, З. Верас, З. Бядулі, П. Бадуновай; пашыраліся ідэі дзяржаўнасці бел. мовы, адкрыцця дзярж. ун-та ў Мінску, асветніцка-адраджэнскай ролі нац. інтэлігенцыі. *А. К. Каўка.*

**«БЕЛОРУ́ССКИЙ ВЕ́СТНИК»**, штодзённая грамадска-паліт. і літаратурная газета вялікадзяржаўна-шавіністычнага кірунку. Выдавалася з 21.11(4.12).1904 да 16(29).11.1905 у Мінску на рус. мове. Заснавана П. Р. *Бывалькевічам* пры фінансавай і паліт. падтрымцы ўрада. Выдаўцы: Бывалькевіч, з 6(19).5.1905 А. П. Смародскі. Рэдактары: І. П. *Фацінскі*, з 10(23).12.1904 да 9(22).2.1905 Смародскі. Была задумана для барацьбы з вызваленчым рухам наогул і газ. *«Северо-Западный край»*. Аднак кірунак газеты часткова мяняўся ў залежнасці ад палітычнай сітуацыі і складу рэдакцыі. Спачатку Фацінскі паспрабаваў накіраваць газету на шлях ліберальна-бурж. «надпартыйнага» асветніцтва, абвясціў праграму яднання ўсіх класаў, саслоўяў і нацыянальнасцей краю на аснове гуманізму і справядлівасці. На першым этапе рэдакцыйныя артыкулы

газеты развівалі праграму «яднання» і «палітыкі даверу» тагачаснага міністра ўнутр. спраў П. Д. Святаполка-Мірскага. Пасля адстаўкі міністра новы рэдактар Смародскі адмовіўся ад «лібералізму», адмежаваўся ад тых, хто хацеў змяніць дзярж. лад Расіі, выступіў за «непарушнасць самадзяржаўя пры садзеянні лепшых выбраных людзей з усіх класаў насельніцтва», за вайну з Японіяй да пераможнага канца, супраць рэформ, якія, на яго думку, «нясвоечасовыя і нават пагібельныя для будучыні Расіі» (17.4.1905). Бывалькевіч пагадзіўся перадаць Смародскаму права на выданне «Б. в.», толькі пры ўмове, «каб газета падтрымлівала Рускую дзяржаўнасць на Паўночна-Заходняй ускраіне Расіі». Грамадзянскае адзінства дзяржавы цяпер тлумачылася як «адзінства рускага народа», адмаўлялася нац. і культурная самабытнасць беларусаў і ўкраінцаў. Паводле «сімвала веры» кіраўнікоў «Б. в.», самадзяржаўе — адзіна магчымы дзярж. лад у Расіі, дзе няма нацыянальнасцей, а ёсць толькі «рускія грамадзяне або ворагі Расіі». На старонках «Б. в.» друкаваліся артыкулы, «лісты ў рэдакцыю» і інш. матэрыялы, якія змяшчалі нападкі на прагрэс. друк, ліберальных публіцыстаў і сацыял-дэмакратаў. Грамадскасць не падтрымала рэакцыйны курс газеты, у выніку чаго рэдакцыя вымушана была лавіраваць, друкаваць прагрэс. аўтараў, погляды якіх яна не падзяляла. Пад націскам рэв. руху, байкоту з боку прагрэс. чытачоў летам 1905 рэдакцыя страціла ідэалаг. кантроль над газетай, якая набыла ліберальна-бурж. афарбоўку, нярэдка друкавала матэрыялы апазіцыйнага і выкрывальнага зместу, падрабязна і праўдзіва інфармавала пра *курлоўскі расстрэл 1905* у Мінску, выказвалася за паліт. рэформы, змяшчала праграмныя дакументы кадэцкай партыі, прызнала непазбежнасць і нават неабходнасць апазіцыі да ўрада і сацыяліст руху, апублікавала арт. «Друг Маркса — Фрыдрых Энгельс» (12.8.1905). Газета часта друкавала нарысы, апавяданні і карэспандэнцыі бел. пісьменніка *Ядвігіна Ш.*, вершы мясц. паэта С. Някрасава. Пасля таго, як улады прыпынілі выданне газ. «Северо-Западный край», мінская дэмакр. грамадскасць фактычна ператварыла «Б. в.» у сваю трыбуну, дзе выкрываўся ўрадавы тэрор, прапагандаваліся дэмакр. ідэі і рэформы. У такіх умовах выдаўцы спынілі выданне газеты.

*Літ.:* Конон В. М. Проблемы искусства и эстетики в общественной мысли Белоруссии начала XX в. Мн., 1985. С. 23—43.

*У. М. Конан.*

**«БЕЛОРУ́ССКИЙ ВЕ́СТНИК»**, штотыднёвая грамадска-палітычная і літаратурная газета праваакцябрысцкага вялікадзярж.-шавіністычнага кірунку. Выдавалася з 17(30).6.1912 да 12(25).1.1913 у Вільні на рус. мове. Орган *Беларускага таварыства*, друкавала яго праграмныя дакументы. Рэдактары М. А. Баўдзей, П. В. Каранкевіч. Была рупарам русіфікаваных слаеў бел. буржуазіі і правінцыяльнага чыноўніцтва. Заклікала народы Расіі пранікнуцца «любоўю да свайго манарха» і дружна пад яго штандарамі рухацца «па шляху велічы і славы» (5.8.1912). Называючы свае выданне «истинно белорусской газетой», рэдакцыя ў той жа час асуджала ідэю нац. самавызначэння бел. народа, адмаўляла яго нац. і культурную самабытнасць, называла беларусаў, поруч з украінцамі, этнагр. часткай рус. народа. Імкнулася ізаляваць Беларусь ад уплываў заходнееўрапейскай і польскай культуры, заклікала ўсіх «рускіх» аб'яднацца і даць адпор «націску больш культурных і эканамічна больш моцных народнасцей» (1.7.1912). Выступала супраць бел. перыядычнага друку і кнігавыдання, сцвярджала, што бел. мова спынілася ў сваім развіцці на фальклорна-этнагр. узроўні, а бел. літаратура — толькі «падробка пад народную творчасць» (5.11.1912). З шматграннай культ. спадчыны беларусаў газета ўхваляла толькі «паданні, быліны, казкі і песні». Надрукавала артыкулы «Сярод беларускай прыроды і побыту» А. Кіркора, «Народная творчасць беларусаў» А. Бярозавіка, краязнаўчыя нарысы П. І. Каранеўскага, тэксты бел. песень і легенд. Змясціла ўрывак з рамана Л. Талстога «Вайна і мір», станоўчыя водгукі пра творчасць І. Буніна, Ф. Шаляпіна, нарыс У. Неміровіча-Данчанкі «Мікада». *У. М. Конан.*

**«БЕЛОРУ́ССКИЙ ГО́ЛОС»**, грамадска-палітычная і літаратурная газета вялікадзярж.-шавіністычнага кірунку, неафіц. орган гомельскага аддзела *Саюза рускага народа*. Выдавалася з 24.1(6.2) да 3(16).3.1910 у Гомелі на рус. мове 2 разы на тыдзень. Рэдактар-выдавец А. Ф. Беняш-Кржывец. Абвясціла сябе «беспартыйнай» газетай, якая мае намер «усебакова асвятляць жыццё беларускага краю», абмяркоўваць праблемы культуры, гандлю і прам-сці, высвятляць патрэбы рабочага і рамесніцкага люду, друкаваць раманы, аповесці, п'есы, вершы, сатырычныя творы і карыкатуры. Аднак з-за адсутнасці здольных супрацоўнікаў праграма газеты не выконвалася. У ліку гал. мэт рэдакцыі быў намер аб'яднаць праваслаўнае насельніцтва для барацьбы супраць «іншародцаў», правесці правых кандыдатаў на выбарах у Дзярж. думу і ўстановы мясц. самакіравання. У закліках да выбаршчыкаў газета агітавала за «нацыяналістаў» і «добрых гаспадароў». Не прызнавала нац. самастойнасці беларусаў, залічвала іх да рус. народа. У арт. «Нацыянальная самасвядомасць» (31 студз.) мэту нац. руху газета бачыла ў тым, каб выцесніць «іншародцаў» з эканам., сацыяльна-паліт. жыцця і культуры, вызваліць Расію ад «унутранага заваявання» з боку «яўрэяў, палякаў, армян ды іншых», а ў крайнім выпадку — выслаць іх з краіны. Газета перадрукоўвала экстрэмісцкія артыкулы лідэра Саюза рускага народа Г. Меншыкава, яго пратэст супраць «захопу яўрэйствам Адэсы, Кіева, Мінска, Нікалаева і інш.». Змяшчала вершы мясц. аўтараў на хрысціянскую тэматыку, павучанні гомельскага епіскапа, надрукавала некалькі бел. песень і загадак. Шмат увагі аддавала гар. гаспадарцы. У рэзкай палеміцы з газ. *«Полесье»* абараняла інтарэсы гар. галавы І. Дамброўскага, заклікала байкатаваць яўрэйскіх гандляроў. Газета не зацікавіла шырокае кола чытачоў, і на 10-м нумары яе выданне было спынена. *У. М. Конан.*

**«БЕЛОРУ́ССКИЙ КОМИССИОНЕ́Р»**, штотыднёвая прыватная газета даведачна-інфармацыйнага характару. Выдавалася з 1.5.1899 да 28.10.1900 у Мсціславе на рус. мове баронам П. фон Пільхау. Друкавала шматлікія аб'явы аб продажы земляробчых прылад, насеннага матэрыялу, пошуках працы рознымі асобамі, паведамляла пра рыначныя цэны на прадукты, змяшчала інфармацыю пра гасцініцы, фотамайстэрні, стан дарог і інш. Узнімала эканам. пытанні, ухваліла праект правядзення праз Мсціслаў чыгункі, станоўча ацэньвала дзейнасць мясц. дабрачыннага таварыства. Закранала праблемы класавай няроўнасці, прыводзіла асобныя факты барацьбы сялян за зямлю. Асвятляла культ. жыццё Мсціслава: пісала пра ўрачыстасці ў гонар І. А. Крылова (1894), святкаванне 100-гадовага юбілею А. С. Пушкіна (1899), пра спектаклі аматарскага тэатральнага гуртка (складаўся з салдат і унтэр-афіцэраў мясц. вайсковай каманды), правядзенне нар. свят. Ставіла пытанне аб адкрыцці ў горадзе сярэдняй навуч. установы. Змяшчала матэрыялы пра мінулае Магілёва, Мсціслава, пра адкрыццё помніка ў Полацку ў гонар перамогі ў Айч. вайне 1812, друкавала пераказ асобных палажэнняў з прац Я. Ф. Карскага. Выйшла 78 нумароў. Выданне газеты спынена з-за матэрыяльных цяжкасцей.

*Літ.:* Юрчанка Г. Першая мсціслаўская газета // ЛіМ. 1984. 12 кастр.

*Г. Ф. Юрчанка.*

**«БЕЛОРУ́ССКИЙ УЧИ́ТЕЛЬСКИЙ ВЕ́СТНИК»**, штомесячны часопіс «для настаўнікаў і дзеячаў народнай адукацыі», створаны па ініцыятыве Т-ва ўзаемадапамогі настаўнікам нар. вучылішчаў Магілёўскай губ. Выдаваўся з мая 1910 да пач. 1911 у Магілеве на рус. мове. Выйшла 6 нумароў. Рэдактар-выдавец М. Я. Казлоў. Пэўнай грамадска-паліт. пазіцыі не выявіў, але ў культурна-нац. аспекце прымыкаў да акцябрыстаў (ігнараваў праблемы развіцця бел. л-ры і нац. школы, публікаваў рэкламу рэакц. газ. *«Минское слово»*). Вядомыя настаўнікі Магілеўшчыны (А. Бонч-Асмалоўскі, В. Іваноўскі, С. Мядзведскі) у інтэрв'ю падтрымалі ідэю настаўніцкага часопіса, але не вызначалі яго кірунку. Праграма часопіса ўключала артыкулы і нарысы па тэматыцы «разумовага і маральнага школьнага і пазашкольнага выхавання, адукацыі, самаадукацыі і фізічнага развіцця», дзейнасць земскіх і гар. устаноў нар. асветы, артыкулы і нарысы прафес. і бытавога зместу, аналіз л-ры па нар. адукацыі, хроніку мясц. і школьнага жыцця, дзейнасць настаўніцкіх т-ваў узаемадапамогі, літ. навіны, крытыку,

бібліяграфію і інш. З-за адсутнасці літ. і навуковых сіл праграма выконвалася часткова, большасць публікацый не вызначалася высокім прафес. узроўнем. Часопіс друкаваў і прагрэс. матэрыялы па нар. асвеце: крытыкаваў «дамастроеўскія» парадкі ў школе, спасылаўся на пед. ідэі К. Дз. Ушынскага (арт. «Школа і пакаранне ў ёй» пад крыптанімам П. Я.). У арт. «Сутнасць паэтычных твораў» настаўніка В. Трусевіча (1910, № 4) раскрывалася своеасаблівасць мастацкага ўяўлення і выяўл. сродкаў л-ры. Часопіс змяшчаў вершы мясц. паэтаў, агляды пед. л-ры, успаміны былога настаўніка, які наіўна прызнаваўся, як ён «адвучваў» бел. дзяцей ад лексікі і фанетыкі роднай мовы. Друкаваліся паведамленні пра з'езды настаўнікаў, апісанні вучнёўскіх экскурсій і інш.

*Літ.*: Асвета і педагагічная думка ў Беларусі: Са старажытных часоў да 1917 г. Мн., 1985. С. 362—363. *У. М. Конан.*

**«БЕЛОРУ́ССКОЕ Э́ХО»**, штотыднёвая грамадска-палітычная, літаратурная і эканамічная газета. Выдавалася 30.5—1.11.1918 у Кіеве на рус. мове (частка матэрыялаў друкавалася па-беларуску). Рэдактар А. Мадзалеўскі. Мела карэспандэнтаў у буйных гарадах Украіны і Беларусі, Маскве і Петраградзе. Асн. задачай ставіла гуртаванне беларусаў, якія жылі на Украіне, забеспячэнне іх сувязі з радзімай. Праводзіла ідэю нац. аб'яднання бел. сіл на Украіне і Беларусі ў цэлым (арт. «Аб'ядноўвайцеся» М. Доўнар-Запольскага, «Неадкладная справа» і «Нашы задачы» І. Краскоўскага пад псеўд. Кій і крыптанімам «І. К.», «Асновы еднасці» А. Навіны). Выступала за адбудову, умацаванне і незалежнасць бел. дзяржавы, яе свабоднае нац. і эканам. развіццё, нац. адраджэнне, аб'яднанне ўсіх грамадскіх сіл бел. народа дзеля рэалізацыі нац. інтарэсаў, прызнанне суверэннасці Беларусі з боку суседніх дзяржаў, найперш РСФСР [паведамленне пра абвяшчэнне незалежнасці *Беларускай Народнай Рэспублікі* (БНР), перадавіца ад 3.6.1918, тэкст ноты дэлегацыі БНР на чале з А. Цвікевічам, Доўнар-Запольскім да расійскага ўрада аб непрызнанні пунктаў Брэсцкага міру 1918, якія закраналі інтарэсы Беларусі, тэкст размовы Я. Хлябцэвіча са старшынёй Віленскай Бел. Рады А. Луцкевічам, арт. «Прамы доўг» Цвікевіча пад псеўд. А. Гвоздзь і інш.]. У публікацыях «Беларускі рух у Гомельскім павеце» і «Украінскія культтрэгеры» (абодва пад крыптанімам «Ікс-эн»), «Братняя ліцытацыя Беларусі» Я. Юзюковіча, «Голас грамадзян» выступала супраць прэтэнзій гетманаўскай Укр. дзяржавы на пайд.-бел. землі. Разглядала пытанні арганізацыі эканам. жыцця на Беларусі (арт. «Беларуская гандлёвая палата ў Кіеве», «Арганізацыя гандлю», «Гандлёвыя перспектывы Беларусі» Доўнар-Запольскага пад псеўд. М. Целяпень і без подпісу), праблему бежанцаў (рубрыка «Бежанскі аддзел», публікацыі Краскоўскага, перадавіцы), пісала пра мінулае, сучаснае і перспектывы бел. адраджэнскага руху (арт. «Тры акты» П. Крачэўскага, «Заходняя камуна» А. Гвоздзя, «Дзяржаўнае будаўніцтва на Беларусі і міжнацыянальныя адносіны» пад крыптанімам «Т.»). Асвятляла дзейнасць урада БНР, друкавала яго афіц. распараджэнні і паведамленні, абмяркоўвала стан і перспектывы ўзаемаадносін бел. ўрада з наваствoранымі дзяржавамі (арт. «Бліжэйшыя праблемы» А. Гвоздзя), пытанні дзярж. будаўніцтва і культурнага жыцця на Беларусі (рубрыка «Хроніка мітраполіі»), паведамляла пра дзейнасць бел. культурна-асв. і грамадска-паліт. суполак на Украіне і ў Расіі (рубрыка «Беларускія арганізацыі на Украіне»). На старонках газеты змешчаны творы Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, З. Вехаця, У. Галубка, Ц. Гартнага, М. Грамыкі, К. Каганца, А. Паўловіча, Ю. Фарботкі, Ф. Чарнышэвіча, літ.-гіст. нарыс «Беларусь у песнях» Фарботкі, артыкул пра Купалле як бел. свята, інфармацыя пра выхад брашуры Цвікевіча пра бел. адраджэнскі рух, альманах «Варта», хроніка падзей і інш. Выйшла 9 нумароў. *А. С. Ліс, А. Я. Шорахава.*

**БЕЛСЕЛЬСАЮ́З,** Беларускі цэнтральны саюз сельскагаспадарчых і крэдытных кааператываў, рэсп. кааператыўная арг-цыя ў вер. 1921 — кастр. 1929. Створаны ў Мінску як Саюз с.-г. кааперацыі Беларусі, у лют. 1922 — жн. 1925 наз. Бел. цэнтр. саюз с.-г. і прамысл. т-ваў (Белсельпрамсаюз), са жн. 1925 — Белсельсаюз.

Бярэ пачатак ад створанага ў час акупацыі польск. войскамі Мінска Бел. саюза сельскай гаспадаркі (кастр. 1919), перайменаванага ў снеж. 1919 у Бел. цэнтр. саюз сельскай гаспадаркі. Сярод заснавальнікаў і першых членаў А. *Бонч-Асмалоўскі*, І. *Канчэўскі*, Я. *Мамонька*, А. *Смоліч*, С. *Рак-Міхайлоўскі*. Саюз атрымліваў дапамогу ад Найвышэйшай Рады БНР, польскіх улад і на пач. крас. 1920 ахопліваў 40 асобных членаў, 16 с.-г. т-ваў; меў 34 аграномаў і тэхнікаў. Выдаваў беларускі с.-г. час. *«Саха»*. У час летняга 1920 наступлення Чырв. Арміі Мінск пакінулі многія кіраўнікі саюза, парушыліся сувязі паміж цэнтрам і мясц. арг-цыямі, дзейнасць саюза прыпынілася. Вынікам поглядаў сав. кіраўнікоў на с.-г. кааперацыю як на кулацкую арг-цыю стала яе зліццё са спажывецкай кааперацыяй у жн. 1920 і падпарадкаванне Бел. цэнтр. саюзу спажывецкіх т-ваў (Цэнтрабелсаюзу, ЦБС). У крас. 1921 на аснове Бел. цэнтр. саюза сельскай гаспадаркі створана секцыя с.-г. і саматужна-прамысл. кааператываў пры ЦБС, якая ў вер. 1921 вылучана ў самастойны саюз с.-г. кааперацыі Беларусі; 24.10.1921 Прэзідыум ЦВК БССР зацвердзіў склад яго часовага праўлення. Наваствораны саюз меў на мэце арганізацыю вытв-сці і збыту с.-г. прадукцыі, калектывізацыю вёскі. Пэўны час (лют. 1922 — жн. 1925) у складзе саюза была прамысл. секцыя. Дзейнасці Б. перашкаджалі шматлікія рэарганізацыі. Вясной 1923 прынята рашэнне аб зліцці с.-г. і прамысл. кааперацыі са спажывецкай (адменена ў ліп. 1923), якое прынесла нар. гаспадарцы вял. страты. Няўвага да фінансавага боку справы, захапленне кіраўніцтва Б. арганіз.-мітынговымі метадамі працы прывялі саюз у 1924 амаль да краху. У 1924—25 завяршыўся працэс арганіз. станаўлення с.-г. кааперацыі ў сувязі з узбуйненнем БССР. 1-ы з'езд упаўнаважаных с.-г. кааперацыі ўзбуйненай БССР (сак. 1924) захаваў Б. як адзіную рэсп. каап. ўстанову і выбраў новы склад органаў кіравання (старшыня праўлення С. Лысаў, старшыня савета Дз. Прышчэпаў, старшыня рэвізійнай камісіі І. Валодзька). Саматужна-прамысл. секцыя была вылучана ў асобную каап. арг-цыю (жн. 1925). Паводле новага статута (май 1925) задачамі Б. былі: абарона працоўных інтарэсаў членаў саюза, забеспячэнне іх насеннем, с.-г. прыладамі і сыравінай, арганізацыя прадпрыемстваў па перапрацоўцы с.-г. прадукцыі, распрацоўка агракульт. мерапрыемстваў. Станаўленне нэпа ў бел. вёсцы з сярэдзіны і да канца 1920-х гадоў спрыяла паспяховай дзейнасці Б. Пашыралася нізавая сетка с.-г. кааперацыі: у 1924—27 колькасць с.-г. таварыстваў павялічылася з 803 да 1273, а пайшчыкаў — з 23,4 тыс. да 286 тыс. За кошт прыцягнення ў склад крэдытных кааператываў значнай часткі заможнага сялянства пашырылася сац. база кааперацыі. Развіваліся спец. віды с.-г. кааперацыі: малочная, садова-агародная, меліярацыйная. Аднак каап. ўстановы не былі пазбаўлены дзярж. кантролю і цалкам залежалі ад крэдытаў з боку дзяржавы. У непамерна раздутым апараце Б. мелі месца растраты, некампетэнтнасць у пытаннях развіцця кааперацыі. У кастр. 1928 са складу Б. вылучаны Бел. саюз с.-г. т-ваў (Белкалгассаюз). У кастр. 1929 Б. ліквідаваны, яго функцыі перададзены рэсп. галіновым саюзам с.-г. кааперацыі (ліквідаваны ў 1932). У выніку такой рэарганізацыі каап. структуры страцілі рэшткі сваёй эканам. самастойнасці. *С. М. Ходзін.*

**БЕ́ЛТА,** гл. ў арт. *Беларускае інфармацыйнае агенцтва.*

**БЕ́ЛУШ** Міхаіл Андрэевіч (1924, в. Руда Ліпічанская Гродзенскага пав., цяпер Мастоўскі р-н — 16.6.1944), удзельнік партыз. руху на Беларусі ў Вял. Айч. вайну. У партызанах з мая 1943, радавы атрада «Кастрычнік» партыз. брыгады Першамайскай Баранавіцкай вобл. Падарваў 8 варожых эшалонаў. У час бою пры разгроме варожага гарнізона ў в. Купіск Навагрудскага р-на закрыў сваім целам станковы кулямёт. На радзіме, у в. Купіск і на месцы гібелі яму пастаўлены помнікі. Яго імем названы вуліцы ў Гродне, Мастах, Навагрудку, г. п. Дзятлава, Карэлічы.

**БЕ́ЛЫ** Андрэй Анісімавіч (н. 17.6.1922, в. Навінкі Рэчыцкага пав. Гомельскай губ., цяпер Калінкавіцкі р-н), Герой Сав.

Саюза (1943). Скончыў Сталінградскае ваен. вучылішча сувязі (1941). У Вял. Айч вайну з крас. 1942 на Паўд.-Зах., Сталінградскім, Данскім, Цэнтр. франтах. Малодшы лейтэнант Б. вызначыўся ў кастр. 1943 пры фарсіраванні Дняпра каля г. п. Лоеў. Байцы ўзвода сувязі, якім ён камандаваў, пад агнем ворага на плытах пераправіліся на правы бераг, выбілі працўніка з траншэй, наладзілі сувязь камандзіра батальёна з камандзірамі рот, чым садзейнічалі выкананню баявой задачы. Пасля вайны да 1967 у Сав. Арміі, падпалкоўнік.

**«БЕ́ЛЫЯ»,** кансерватыўна-ліберальная плынь у нац.-вызваленчым руху напярэдадні і ў час *паўстання 1863—64* на Беларусі, у Польшчы і Літве. У адрозненне ад *«чырвоных»* «Б.» выступалі супраць узбр. паўстання. Арыентуючыся на дапамогу ўрадаў зах. дзяржаў, яны спадзяваліся шляхам паліт. камбінацый дамагчыся ад царскага ўрада ўступак і аднаўлення Польшчы ў межах 1772. У Царстве Польскім «Б.» складаліся з буйной шляхты і гандл.-фінансавай буржуазіі, на Беларусі і ў Літве, дзе буржуазія была развіта слаба,— амаль выключна з памешчыкаў. На польскіх землях «Б.» арганізацыйна афарміліся ў канцы 1861. Іх кіруючы орган у Варшаве — Дырэкцыя. Арганізацыя ліберальных памешчыкаў на Беларусі і ў Літве як рэакцыя на дэмакр. нац.-вызваленчы рух пачала афармляцца ў 1860, пастаянны камітэт «Б.» у Вільні створаны ў вер. 1862. Баючыся, каб паўстанне 1863—64 не перарасло ў нар. рэвалюцыю, «Б.» далучыліся да яго. 27.2(11.3). 1863 яны абвясцілі дыктатуру свайго стаўленіка М. Лянгевіча. Адначасова «Б.» захапілі паўстанцкую ўладу ў Літве і на Беларусі Замест «чырвонага» *Часовага правінцыяльнага ўрада Літвы і Беларусі* з прадстаўнікоў «Б.» быў утвораны *Аддзел кіраўніцтва правінцыямі Літвы*. Адпаведныя перамены былі праведзены і ў губернскіх (ваяводскіх) арг-цыях. «Б.» сабатавалі правядзенне рэв. пераўтварэнняў і прычыніліся да звужэння сац. базы і размаху паўстання. Паводле сведчання ўдзельніка падзей, «шляхце спадабаліся тытулы, і яна вельмі ахвотна прымала прызначэнні, але ахвяраваць часам і ўсім дарагім у жыцці для выканання прынятых на сябе абавязкаў, падвяргаць сябе ўсім небяспекам, звязаным з выкананнем, напрыклад, камісарскай пасады, яна па самой натуры сваёй была няздатная. Наогул, кіраўнікі ваяводстваў былі баязлівыя і цяжкія, лянівыя нягоднікі. Праехаць 15 верст здавалася такім панам чымсьці надзвычайным, весці прыстойную перапіску траха не смяротным прысудам» (Авейде О. Показания и записки о польском восстании 1863 года. М., 1961. С. 542). Не вытрымаўшы рэпрэсій царскіх улад, летам 1863 «Б.» сталі адыходзіць ад паўстання. У ліп. 1863 «чырвоныя» Літвы і Беларусі на чале з К. *Каліноўскім* зноў узялі ў свае рукі рэв. уладу. Царскі ўрад выкарыстаў часовы ўдзел памешчыкаў у паўстанні для аслаблення польскага землеўладання на Беларусі і ў Літве. Галоўныя дзеячы «Б.» у Польшчы Л. Кроненберг, А. Замойскі, К. Маеўскі, на літ.-беларускіх землях — гродзенскі губ. маршалак шляхты В. *Стажэнскі* (Старжынскі), Я. *Гейштар*, А. *Аскерка*, А. *Яленскі* і інш.

*Літ.* гл. пры арт *Паўстанне 1863—64*

*Г. В Кісялеў*

А А Белы.

І А Бельскі.

**БЕЛЬНЯКІ́,** вёска ў Антапольскім сельсавеце Чашніцкага р-на, на р. Усвейка. За 29 км ад Чашнікаў, на аўтадарозе Антаполле — Чашнікі. 48 ж., 28 двароў (1992). Узніклі не пазней пач. 16 ст. на тэр. Лукомскага княства ВКЛ, належалі да маёнтка Мялешкавічы князёў Лукомскіх. У пісьмовых крыніцах упершыню згадваюцца каля 1528, калі на маенткі кн. А. І. Лукомскага-Мялешкаўскага зрабіў наезд Фёдар Сапега. У 1554 сын папярэдняга ўладальніка, кн. А. А. Лукомскі запісаў Б. разам з інш. сваімі маенткамі ў вена жонцы. На супрацьлеглым (левым) беразе Усвейкі быў пабудаваны драўляны замак князёў Лукомскіх, які ў дакументах называецца па-рознаму: Белгарадок, Гарадок Мялешкаўскі ці Гарадок Бельнякі (Бельмакі). Побач з замкам узнікла мястэчка — сучасная веска Замачак, а ў вёсцы Б. заснаваны фальварак. У час Лівонскай вайны 1558—83 замак разам з Б. быў у 1563 часова захоплены войскам Івана Грознага, пра што згадваецца ў Пісцовай кнізе Полацкага ваяв. і ў перапісцы караля Жыгімонта II з Іванам Грозным. Пазней Б. валодаў кн. І. А. Лукомскі-Мялешкаўскі, пасля смерці якога ў 1605 — яго пляменнік, кн. Іван Барысавіч. У 1623 апошні прадаў замак Белгарадок з фальваркам Бельнякоўскім за 6 тыс. коп грошаў свайму зяцю Адаму Шчорсу. Сын апошняга ў 1631 перапрадаў маентак гетману ВКЛ Льву Сапегу, які раней купіў Мялешкавічы ў князёў Лукомскіх. З гэтага часу Б належалі да Чарэйскага маёнтка Сапегаў. Паводле інвентара 1713, у Б. налічвалася 25 валок зямлі, вёска ўваходзіла ў склад Аршанскага пав Смаленскага, потым Віцебскага ваяв. Пасля далучэння гэтай тэрыторыі да Рас. імперыі паводле 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) — у складзе Замацкай вол. Сенненскага пав. Магілеўскай губ. У 1798 Фрыдрых Сапега прадаў Б. разам з Мялешкавічамі Адаму Хмары. У родзе Хмараў Б. заставаліся да канца 19 ст. На пач. 20 ст ў Б. 287 жыхароў, 36 дамоў. З 1919 у Віцебскай губ. РСФСР. З 1924 у БССР да 1927 у Чарэйскім р-не Барысаўскай, да 1930 — Аршанскай акр., потым у Чашніцкім р-не (з 1935) Лепельскай акр., з 1938 — Віцебскай вобл. У гады калектывізацыі ў Б. створаны калгас. Цэнтр саўгаса «Замачак» (1992).

*В Л Насевіч*

**БЕ́ЛЬСКІ** (Bielski) Іахім (каля 1540 — 8.1.1599), польскі храніст і пісьменнік 16 ст., сын М. *Бельскага*. Прадоўжыў «Хроніку Польшчы» ад 1587 да 1598. Найбольш поўна апісаў падзеі, звязаныя з *Налівайкі паўстаннем* 1595—96, рух яго войска на Слуцк, Магілеў і на Украіну, дзе быў разбіты.

*Тв* Dalszy ciąg kroniki Polskiej, zawierającej dzieje od 1587 do 1598 r. Warszawa, 1851

**БЕ́ЛЬСКІ** Іосіф Аляксандравіч (21 9. 1903, в. Лошыца 1-я, цяпер у межах Мінска — 25.6.1966), партыйны і прафсаюзны дзеяч БССР, адзін з арганізатараў і кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху на тэр. Мінскай і Палескай абл. у Вял. Айч. вайну. Герой Сав. Саюза (1944). Чл. КПСС з 1929. Скончыў Маскоўскую прамысл. акадэмію (1941). Працоўную дзейнасць пачаў у 1917 рабочым-чыгуначнікам. З 1921 на гасп., савецкай і парт. рабоце. Удзельнік вызвалення Зах. Беларусі ў 1939. З сак. 1941 сакратар Мінскага абкома КП(б)Б. У Айч. вайну з 21.7.1941 да ліп. 1944 сакратар *Мінскага падпольнага абкома КП(б)Б*, адначасова ў маі — чэрв. 1943 камандзір, у лют.— ліп. 1944 в. а. камандзіра Мінскага партыз. злучэння. Удзельнічаў у стварэнні 63 падп. пярвічных парт. арг-цый у Мінскай і Палескай абл., у разгроме варожых гарнізонаў і інш. баявых аперацыях. З 1944 сакратар Мінскага гаркома КП(б)Б, у 1948—58 старшыня Бел. рэсп. савета прафсаюзаў. Чл. ЦК КПБ у 1952—60. Дэп. Вярх. Савета БССР у 1947—51, 1955—59. Пахаваны ў Мінску на Усходніх могілках, на магіле — помнік. Яго

імем названы вуліцы ў Барысаве і Мінску.

**БЕ́ЛЬСКІ** (Bielski, сапр. Вольскі) Марцін (1495, в. Бяла каля г. Серадза, Польшча — 18.12.1575), польскі пісьменнік і храніст. Вядомы як складальнік «*Хронікі ўсяго свету*» (Кракаў, 1551, 1554, 1564) — гіст.-літ. кампіляцыі, прасякнутай шляхецкім патрыятызмам. Гэты сярэдневяковы паводле характару твор уяўляе сабой багаты збор разнастайных, нярэдка легендарных звестак з гісторыі многіх народаў свету, у т. л. славянскіх. На падставе часткі твора, прысвечанай гісторыі Польшчы, Літвы і Русі, сын Б. Іахім склаў «Хроніку Польшчы», якую, дапоўніўшы і пашырыўшы матэрыяламі да 1586, выдаў у 1597 у Кракаве пад імем свайго бацькі. Як хроніка Бельскага перавыдавалася ў 1764 (Варшава) і 1856 (Санак, Польшча). Змяшчае нямала звестак з гісторыі Беларусі, але не арыгінальных, бо грунтуецца на вядомых крыніцах, пераважна «*Хроніцы ўсяго свету*» і «*Хроніцы польскай, літоўскай, жамойцкай і ўсяе Русі*» М. Стрыйкоўскага. Аўтар польскай перарабкі папулярнага ў Еўропе зб-ка дыдактычных навел-біяграфій філосафаў і пісьменнікаў старажытнасці і сярэднявечча — «Жыццяпісы філосафаў» (1535), вершаванай «Камедыі пра Юстына і Канстанцыю» (1557), шэрага сатырычных твораў. У сваёй творчасці выступаў пераважна як маралiст, глядзеў на жыццё з пазіцый «добрага старога часу», рыцарскіх ідэалаў. Сімпатызаваў Рэфармацыі. *В. А. Чамярыцкі*

**БЕ́ЛЬСКІ ПАВЕ́Т**, адм.-тэр. адзінка ў Расійскай імперыі і Польшчы ў 19—20 ст. Утвораны ў ліп. 1808 у складзе *Беластоцкай вобласці*. Цэнтр — г. Бельск-Падляскі (7464 ж., 1897). З 1843 у складзе *Гродзенскай губерні*. Плошча павета — 3130,1 кв. вярсты, нас.— 164 441 чал. (паводле перапісу 1897). У 1909 у павеце (без горада) 149 500 ж. (40 % праваслаўных, 41 % католікаў, 11 % іудзеяў), у Бельску 8919 ж. (3726 праваслаўных, 2667 католікаў, 2505 іудзеяў і інш.). У склад павета ўваходзіла 15 валасцей Аляксандраўская (Радзівілаўская), Алексінская, Арлянская, Гарадзіская, Дубяжынская, Кленіцкая, Ласінская, Маляшэўская, Наройская, Новабярозаўская, Паўлаўская, Пасынкаўская, Райская, Семятыцкая і Шкурэцкая. У складзе павета было, акрамя пав. горада, 5 заштатных гарадоў Бранск (4087 ж.), Драгічын (1707 ж.), Кляшчэлі (2013 ж.), Мельнік (1485 ж.) і Нараў (1434 ж., усе звесткі паводле перапісу 1897); 5 мястэчак Боцькі, Нямірава, Орля, Семятычы, Цеханавец; 544 вёскі, 49 маёнткаў, фальваркаў і мыз, 28 урочышчаў і інш. дробных паселішчаў. У 1-ю сусветную вайну павет акупіраваны ням. войскамі. З канца 1918 увайшоў у склад Польскай дзяржавы. У час польска-сав. вайны 1920 на кароткі час быў заняты войскамі Чырвонай Арміі. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 застаўся ў складзе Польшчы, у *Беластоцкім ваяводстве*. Некаторыя гміны (былыя валасці) павета былі перайменаваны, узбуйнены або скасаваны. Утвораны новыя гміны. Віджгоўская, Вышкаўская, Даманаўская, Кляшчэльская, Контыйская, Масеўская, Мілейчыцкая, Лубінская, Нараўская, Рудкоўская, Тапчэўская. У ліп. 1922 у сувязі са скасаваннем Белавежскага павета ў склад Б. п. перададзены Белавежская, Масеўская і Сухапольская гміны. У ліп. 1926 Сухапольская гміна перададзена ў склад Пружанскага пав. Палескага ваяв. З сак. 1929 да чэрв. 1930 была Гайнаўская гміна, пасля яе скасавання тэр. гміны перададзена ў склад Ласінскай, Масеўскай і Арлянскай гмін. У ліп. 1934 было скасавана 12 гмін Віджгоўская, Даманаўская, Дубяжынская, Контыйская, Ласінская, Лубінская, Наройская, Пасынкаўская, Радзівілаўская (Аляксандраўская), Рудкоўская, Тапчэўская і Шкурэцкая; утворана 7 новых гмін Бельская, Боцькаўская, Бранская, Гайнаўская, Драгічынская, Мельнікаўская і Цеханавецкая. У пач. 2-й сусв. вайны павет, як і ўся Зах. Беларусь, заняты войскамі Чырвонай Арміі; у ліст. 1939 уключаны ў склад БССР, 4.12.1939 увайшоў у створаную Беластоцкую вобласць 15.1.1940 Б. п. скасаваны, на яго тэр. праведзена раянаванне, створаны Бельскі, Бранскі, Цеханавецкі, Семятыцкі, Кляшчэльскі і інш. раёны. Былі нацыяналізаваны прамысл. прадпрыемствы, у т. л. кафляна-плітачны з-д (104 рабочыя) у мяст. Орля, мясакамбінат і млын у Бельску, торфазаводы, транспартныя, гандл. і інш. ўстановы, рэарганізавана і пашырана школьная сетка, пачата калектывізацыя. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 да ліп. 1944 тэр. раёна была занята ням.-фаш. акупантамі. Барацьбу з імі вялі атрады Арміі Краёвай, Гвардыі (пазней Арміі) Людовай. У 1941—42 на тэр. раёна дзейнічаў партыз. атрад імя Э. Тэльмана (камандзіры В. Т. Канцадалаў, І. І. Крылоў), у 1943—44 партыз. брыгады «У імя Радзімы» (камандзір М. Р. Янкоўскі), атрад імя Багдана Хмяльніцкага (камандзір М. У. Пальчэўскі), дзейнічаў Бельскі падпольны РК ЛКСМБ. 16.8.1945 паводле дагавора «Аб савецка-польскай дзяржаўнай граніцы» тэр. былога Б. п. перайшла да Польшчы. *М. І. Камінскі*

**БЕ́ЛЬСКІ ПРЫВІЛЕ́Й**, абвешчаны вял. князем ВКЛ Жыгімонтам ІІ Аўгустам 1.7.1564 на сойме ў г. Бельску Падляшскага ваяв. Адзін з юрыдычных актаў, што ўдасканальвалі прававыя нормы *Статута Вялікага княства Літоўскага 1529*. Апублікаваны ў час падрыхтоўкі *Статута Вялікага княства Літоўскага 1566* пасля настойлівых просьбаў шляхты, якая намагалася пашырыць свае саслоўныя і паліт. правы. Меў на мэце ўтварэнне выбарных шляхецкіх саслоўных судоў, аддзяленне на месцах судовых органаў ад велікакняжацкай адміністрацыі. Абвяшчаў роўнасць шляхты перад судом і законам. Вялікі князь гарантаваў неўмяшанне адміністрацыі (ваявод і старостаў) у судовыя справы шляхты і абяцаў у хуткім часе выдаць на сойме новы статут, у якім прадугледжвалася ўтварэнне судоў, што выбіраліся шляхтай. Асобна агаворвалася, што паводле прывілеяў вял. князёў, правы царквы і духоўных судоў (каталіцкіх і праваслаўных) захоўваюць сваю сілу на падставе даўніх прывілеяў, якія мелі каталіцкія біскупы і праваслаўныя ўладыкі. У складанай паліт. сітуацыі пад час *Лівонскай вайны 1558—83* на абмежаванне сваёй улады і прэрагатыў у судовых адносінах пайшлі не толькі вял. князь, але і паны-рада і старосты (пераважна магнаты Беларусі і Літвы). Дзяржаўцы вымушаны былі адмовіцца ад сваіх судовых правоў і даходаў дзеля кансалідацыі саслоўя феадалаў. Усе палажэнні Б. п. былі ўзяты з праекта новага статута. Аднак у Статуце 1566 яны сфармуляваны больш поўна і дакладна. Дапаможны, службовы характар Б. п. выявіўся ў тым, што ў Статуце 1566 ён змешчаны як уводны закон і склаў з ім адзіны прававы акт. *А. П. Грыцкевіч*

**БЕ́ЛЬСКІЯ**, княжацкія і баярскія роды ў ВКЛ і Маскоўскім вял. княстве. Існавалі 2 роды Б., не звязаныя сваяцтвам. Б.-Рурыкавічы і Б.-Гедзімінавічы. Родапачынальнікам князёў Б.-Рурыкавічаў быў князь Іван Міхайлавіч Морткін-Бельскі з роду яраслаўскіх князёў. Адзін з яго сыноў, Леў Іванавіч, ад'ехаў у ВКЛ. Яго нашчадкі жылі да 1800 у Віленскім, Берасцейскім і інш. ваяводствах.

Родапачынальнікам князёў Б.-Гедзімінавічаў быў Алелька (у хрышчэнні Уладзімір), унук вял. князя ВКЛ Гедзіміна. Ён меў сыноў Алельку (у хрышчэнні Аляксандр, родапачынальнік князёў Пінскіх і Слуцкіх — Алелькавічаў), Івана (ад яго пайшлі Б.) і *Андрэя Уладзіміравіча*.

Іван Уладзіміравіч (? — пасля 1446), упамінаецца з 1411. Валодаў г. Белая на р. Обша (цяпер Смаленская вобл.). У 1422 ажаніўся з Васілінай (Васай) з роду *Гальшанскіх*, якая была сястрой Соф'і, жонкі польскага караля Ягайлы. У час паўстання Свідрыгайлы ў 1432—39 спачатку падтрымліваў Жыгімонта Кейстутавіча, але калі Свідрыгайла ўзяў у заклад яго жонку Васіліну, вымушаны быў перайсці на бок Свідрыгайлы. У 1435 у баі пад Вількамірам трапіў у палон да Жыгімонта Кейстутавіча. Быў намеснікам у Ноўгарадзе (1445—46). Меў 7 дзяцей, у т. л. сыноў Федара і Сямена.

Федар Іванавіч (?—?), сын Івана Уладзіміравіча, упамінаецца з 1476 як «князь Федар з Белай». Належаў да апазіцыі Казіміру IV Ягелончыку, у 1481 удзельнічаў у змове князёў супраць яго, на 2-і дзень пасля шлюбу з Ганнай Сяменаўнай з роду князёў Кобрынскіх быў вымушаны ратавацца ўцекамі. З 1482 у Маскве. Казімір IV Ягелончык, а пазней і яго сын Аляксандр не адпускалі Ганну з Кобрына. Спробы Федара Іванавіча, якія

стаў баярынам Маскоўскага вял. княства, вызваліць жонку вынікаў не далі. У 1493 ён спрабаваў вярнуцца ў ВКЛ, за што сасланы ў Галіч. У 1497 памілаваны, у 1498 ажаніўся з разанскай князеўнай Ганнай Васілеўнай, пляменніцай вял. князя Івана III Васілевіча. У 1499 быў ваяводам коннага войска, пасланага пад Казань. У час вайны Маскоўскай дзяржавы супраць ВКЛ 1500—03 з 1502 у якасці 2-га ваяводы ўдзельнічаў у беспаспяховай аблозе Смаленска. У 1506 зноў удзельнічаў у паходзе на Казань. Ад Ганны Разанскай меў сыноў Дзмітрыя, Івана і Сямёна.

Сямён Іванавіч (? — пасля 1507), сын Івана Уладзіміравіча. У 1484 беспаспяхова судзіўся з Іванам Сяменавічам Кобрынскім з-за зямельнага пасагу жонкі апошняга, княгіні Фядоры. У 1500, незадаволены сваім становішчам у ВКЛ, з гарадамі Чарнігавам, Старадубам, Гомелем, Любечам перайшоў на службу да вял. кн. маскоўскага Івана III Васілевіча. Адзін з ініцыятараў войнаў Маскоўскай дзяржавы супраць ВКЛ пач. 16 ст., атрымаў удзелы ў памежжы з ВКЛ. Быў жанаты з Ірынай, дачкой маскоўскага баярына кн. Івана Юр'евіча Патрыкеевіча з Нарымунтавічаў. Нашчадкаў не пакінуў.

Дзмітрый Фёдаравіч (каля 1500—13.1.1551), сын Федара Іванавіча, дзярж. дзеяч Рус. дзяржавы, баярын з 1530, ваявода. Адзін з рэгентаў пры малалетнім вял. князю маскоўскім Іване IV Меў 2 дачок і сына Івана.

Іван Федаравіч (? — май 1542), сын Федара Іванавіча, дзярж. дзеяч Рус. дзяржавы, баярын з 1522, ваявода. З лета 1540 быў «першарадцам» Івана IV Грознага У пач. 1542 скінуты Шуйскімі, сасланы на Белавозера і там забіты. Меў сына Івана.

Сямен Федаравіч (?—?), сын Федара Іванавіча, баярын з 1522. У 1534 збег у ВКЛ (разам з Іванам Ляцкім), атрымаў ад караля польскага і вял кн. ВКЛ Жыгімонта II Аўгуста Жыжморы, Стаклішкі і Кармілаў. У 1535 удзельнічаў у паходзе гетмана Яна Тарноўскага на Северскія землі, пазней — у інш. паходах супраць Рус. дзяржавы. Адпрасіўся ў паломніцтва да Святых месцаў (у Палесціну). У 1537 апынуўся ў Крыме, наведаў Турцыю (1536), падбіваў крымскіх татараў і туркаў на вайну супраць Рус дзяржавы Да 1542 перапісваўся з Жыгімонтам II Аўгустам. Далейшы лёс невядомы. Нашчадкаў не пакінуў

Іван Дзмітрыевіч (? — 24.5. 1571), сын Дзмітрыя Федаравіча, дзярж дзеяч часоў Івана IV Грознага, баярын з 1560, ваявода. Удзельнічаў у 1563 у Лівонскай вайне 1558—83, у Земскім саборы 1566 Загінуў разам з сям'ей у час наезду на Маскву крымскіх татараў хана Даўлет-Гірэя.

Георгій Іванавіч (? — 24.9 1612), сын Івана Іванавіча, унук Івана Федаравіча, апошні прадстаўнік роду Б-Гедзімінавічаў Прыняў манаства пад імем Галакцена. Жыў у лясах пад Волагдай, дзе пазней быў заснаваны манастыр Святога Духа. Загінуў у час налету атрада войск Рэчы Паспалітай

Акрамя таго, вядома некалькі польск шляхецкіх родаў Б., сярод якіх у 18 ст. сустракаюцца бароны і графы, і дваранскі род Б. у Расіі (выйшлі з Валыні).

*Літ* Долгоруков П В Российская родословная книга Ч. 4 Спб, 1857, Boniecki A Herbarz Polski T 1, cz 1 Warszawa, 1899, Wolff J Kniaziowie litewsko-ruscy Warszawa, 1895, Полное собрание русских летописей М, 1975 Т 32 С 170 *Л Р Казлоў, А М Нарбут*

**БЕЛЬЧЫЦЫ**, рэзідэнцыя полацкіх князёў у 12 ст. На левым беразе Зах. Дзвіны, пры ўпадзенні ў яе р. Бяльчанка, за 2 км ад Верхняга замка — крамля стараж. Полацка. У Іпацьеўскім летапісе пад 1159 сказана «... бяшеть бо князь в то время на Бельцици». М Стрыйкоўскі даводзіць, што Б. былі ўмацаваны мураванай сцяной і вежамі, разбуранымі ў 17 ст. уніяцкім царкоўна-палітычным дзеячам І Кунцэвічам. Частка княжацкай рэзідэнцыі з'яўлялася і Бельчыцкі Барысаглебскі манастыр, які ўключаў 4 храмы, пабудаваныя з плінфы ў тэхніцы муроўкі са схаваным радам, характэрнай для *Полацкай школы дойлідства*. Тры бельчыцкія храмы існавалі да канца 19 ст. (1 у руінах), а 4-ы разбураны даўно і выяўлены ў час земляных работ у канцы 18 ст. Муры вышэйназваных 3 храмаў у 1930-я гады здрабнены на друз у час пракладкі дарогі, канчаткова зруйнаваны ў 1950-я гады. Бельчыцкі Барысаглебскі манастыр — унікальны культавы помнік 12 ст., выключная з'ява ў старажытна-рус. дойлідстве і манументальным жывапісе.

Бельчыцы. Фрагмент фрэскі на панелі Вялікага сабора.

Бельчыцы. Арнамент на аконным праеме Барысаглебскай царквы

Вялікі сабор (1-я пал. 12 ст., назва невядома; разбураны ў 16 ст.) — крыжова-купальны 3-апсідны храм з 3 прытворамі (памеры без прытвораў 22,5×16,5 м; тут і далей паводле П. А. Рапапорта) і 6 крыжовымі ў сячэнні слупамі. Сцены сабора былі ўмацаваны плоскімі лапаткамі. Істотная асаблівасць будынка ў тым, што ў параўнанні са звычайнымі 6-слуповымі храмамі падкупальны квадрат быў ссунуты на З. У саборы ўжо выяўлялася тэндэнцыя да значнай перапрацоўкі крыжова-купальнай схемы будынка ў бок кампазіцыі з вежападобна ўзнятым барабанам купала. У далейшым гэта тэндэнцыя атрымала інтэнсіўнае развіццё і прывяла да стварэння полацкай арх. школы. Асобныя ўчасткі падлогі былі ўпрыгожаны паліванымі керамічнымі пліткамі. Над чырвона-карычневай паласой, якая аддзяляла панель ад верхняй часткі сцяны, размяшчаўся складаны арнамент, створаны белымі фарбамі, з выявай завіткоў «квітучага крыжа». На гэтай сцяне быў расліны арнамент зяленае лісце на белым фоне.

Барысаглебская царква (сярэдзіна 12 ст.) — 3-нефавы крыжова-купальны будынак (каля 8,3×14,5 м) з 3 апсідамі (2 у тоўшчы сцяны), 6 крыжовымі ў сячэнні слупамі, плоскімі лапаткамі на сценах, хорамі над бабінцам. Прапорцыі храма блізкія да памераў *Полацкай Спаса-Ефрасінеўскай царквы*. Вокны з драўлянымі аканіцамі для круглага і трохвугольнага шкла былі размешчаны ў 2 ярусы. Паласатая муроўка сцен узмоцнена афарбоўкай цагляных радоў у карычневы колер. М. М. Воронін лічыў, што Барысаглебскую царкву мог пабудаваць полацкі дойлід Іаан. Храм меў багатую фрэскавую размалёўку. Фрагменты фрэ-

сак — франтальныя (у рост або пагрудныя ў рамках) выявы святых, воінаў і пакутнікаў. На паўн. сцяне і 1-й ад алтара лапатцы — выява Параскевы Пятніцы. Вузкія выступы лапатак, аконныя і дзвярныя праёмы былі дэкарыраваны разнастайным арнаментам. Часта паўтаралася варыяцыя завіткоў з сэрцападобнай фігурай у аснове малюнка. Кампазіцыя арнаменту і каларыт разнастайныя. Колеравая гама малюнка складалася з чырвона-карычневых, цёмна-зялёных і блакітных тонаў. Стыль і тэхніка выканання фрэсак блізкія да кіева-візантыйскіх маст. традыцый. Фон зялёны, традыц. для помнікаў Балкан, Сербіі.

Пятніцкая царква (12 ст.) — 1-нефавая, бесслупавая пабудова. Памерам 5,75$\times$5,1 м. Яна мела корабавае скляпенне, прамавугольную апсіду з лапаткамі на вуглах, невялікі бабінец-нартэкс. Пад царквой знаходзіліся камера-крыпта, відаць, пахавальня. Верхнія часткі сцен аздоблены фрэскавымі кампазіцыямі хрысталагічнага цыкла: «Стрэчанне» і «Укрыжаванне» (паўночная сцяна), «Аплакванне» (паўд. сцяна). Ніжнія часткі сцен аздоблены адзіночнымі фігурамі і кампазіцыямі, панель размалявана пад мармур. На зах. баках перадалтарных слупоў былі выявы Барыса і Глеба (у поўны рост), на ўнутр. плоскасці алтарнай аркі злева выява святога Міколы, справа — невядомага святога. Паўн. сцяна была аздоблена чырв. раслінным арнаментам на белым фоне. У кампазіцыі і іканаграфіі фрэсак сінтэзаваліся візант. і заходнееўрапейскія маст. традыцыі. У каляровай гаме пераважаюць чырвона-карычневыя, блакітна-сінія і жоўта-вохрыстыя колеры.

Храм-трыконх (12—13 ст., назва невядома) — падоўжаны будынак з 4 шырока расстаўленымі слупамі і апсідай. Да сцен з Пн і Пд прымыкалі адкрытыя ўсярэдзіну паўкруглыя выступы, ад якіх царква атрымала назву храма-трыконха.

Цяпер на месцы Б. у Задзвінні размешчаны мікрараён Полацка, які носіць імя полацкай падпольшчыцы-партызанкі Героя Сав. Саюза Т. С. Марыненкі.

*Літ.:* Воронин Н. Н. Бельчицкие руины: (к истории полоцкого зодчества XII в.) // Архитектурное наследство. М., 1956. Вып. 6; Раппопорт П. А. Полоцкое зодчество XII в. // Сов. археология. 1980. № 3; Церашчатава В. В. Старажытнабеларускі манументальны жывапіс XI—XVIII стст. Мн., 1986; Гісторыя беларускага мастацтва. Т. 1. Мн., 1987; Трусов О. А. Памятники монументального зодчества Белоруссии XI—XVII вв.: Архит.-археол. анализ. Мн., 1988; Яго ж. Бельчыцкі манастыр // Бел. гіст. час. 1993. № 1; Селицкий А. А. Живопись Полоцкой земли XI—XII вв. Мн., 1992. *Г. В. Штыхаў.*

**БЕЛЯЗО́** Алена Паўлаўна (н. 2.5.1931, Віцебск), беларускі гісторык. Д-р гіст. н. (1985). Скончыла Магілёўскі пед. ін-т (1956). Працавала настаўніцай у Віцебску, з 1964 малодшы, у 1965—91 старшы навук. супрацоўнік Ін-та гісторыі АН БССР. Даследуе гісторыю сялянства і сельскай гаспадаркі сав. перыяду. Адзін з аўтараў «Гісторыі Беларускай ССР» (т. 5, 1975), калектыўнай манаграфіі «Рост матэрыяльнага дабрабыту і культуры беларускага народа» (1969).

*Тв.:* Последователи великого почина в сельском хозяйстве Белоруссии. Мн., 1969; Беларуская вёска ў пасляваенныя гады (1945—1950). Мн., 1974; Современное белорусское село. Мн., 1976; Крестьянство Белоруссии на пути к развитому социализму (1951—1960 гг.). Мн., 1982.

Бельчыцы. Фрэскавая кампазіцыя «Стрэчанне» ў інтэр'еры Пятніцкай царквы.

**БЕЛЯМУ́К** Міхась (псеўд. Дубок, Чаромха, Беластоцкі, н. 15.3. 1924, в. Голя Брэсцкага пав. Палескага ваяв.), беларускі гісторык і грамадскі дзеяч. З 1949 жыве ў Кліўлендзе (ЗША). Удзельнічаў у стварэнні Згуртавання бел. моладзі, аддзела Беларуска-амерыканскага задзіночання (БАЗА). Аўтар гіст. і публіцыст. артыкулаў у бел. эміграцыйных выданнях «Бацькаўшчына», «Беларускі эмігрант», «Беларускі час», «Беларус», «Беларускі сьвет», «Голас царквы», «Голас часу» і інш. Ініцыятар выдання і сакратар рэдкалегіі час. *«Полацак»*. Даследуе бел. нумізматыку, сфрагістыку, геральдыку. Выдаў працы «Др. Ю. Штыхаў» (1984), «Вытокі беларускіх пячаткаў» (1986). *А. Я. Белы.*

**БЕЛЯШЭ́ЎСКІ** Мікалай Фядотавіч [30. 9(12.10).1867, г. Умань Кіеўскай губ., цяпер Чаркаская вобл.— 21.4.1926], украінскі археолаг, этнограф, мастацтвазнавец. Акад. АН УССР (1919). Скончыў Кіеўскі ун-т. У 1902—23 дырэктар Кіеўскага гіст. музея. Рэдактар зб. «Археологическая летопись Южной России» (т. 1—3. Кіеў, 1899—1901) і часопіса з той жа назвай (1903—05). Адзін з першых даследчыкаў (1890-я гады) паселішчаў на Зах. Бугу і Гомельшчыне, а таксама ў Сярэднім Падняпроўі. Аўтар прац па археалогіі і ўкр. арнаментыцы.

*Тв.:* Несколько новых стоянок каменного века по Днепру и его притокам // Киевская старина. 1891. Т. 32, № 3 (март); Дюнные стоянки неолитической эпохи на берегах р. Западного Буга в среднем его течении // Труды одиннадцатого Археологического съезда в Киеве 1899. М., 1901. Т. 1.

**БЕ́МБЕЛЬ** Андрэй Ануфрыевіч [17 (30).10.1905, г. Веліж Віцебскай губ., цяпер Смаленская вобл.— 13.10.1986], беларускі скульптар. Нар. мастак БССР (1955). Праф. (1962). Вучыўся ў Віцебскім маст. тэхнікуме (1924—27). Скончыў Ленінградскую акадэмію мастацтваў (1931). Удзельнік Вял. Айч. вайны. З 1947 на пед. рабоце, з 1953 у Бел. тэатральна-мастацкім ін-це (да 1978 загадчык кафедры скульптуры). У мастацкіх выстаўках удзельнічаў з 1927. Працаваў у галіне манум. і станковай скульптуры. Творчасць звязана з гіст. вобразамі і тэмамі. Першая манум. работа (з У. Рытарам, 1932—34) — рэльефы для Дома ўрада ў Мінску («Парыжская камуна», «Абвяшчэнне камуністычнага маніфеста», «Каланіяльныя народы ўзнімаюцца на барацьбу», «Першая пяцігодка СССР» і інш.) і залы з'ездаў Вярх. Савета БССР («СССР — індустрыяльная калгасная дзяржава»). У 1935—36 стварыў рэльефы залаў Прэзідыума Вярх. Савета БССР (не збераглíся) і акруговага Дома афіцэраў, у 1936—39 помнікі У. І. Леніну (у Полацку, Слуцку), у гады вайны — шэраг скульптур, сярод якіх партрэт Героя Сав. Саюза М. Ф. Гастэлы (бронза, 1943). У пасляваен. час выканаў гарэльеф для Манумента Перамогі ў Мінску (1954, «9 мая 1945 года»), скульптурны партрэт Героя Сав. Саюза А. М. Матросава (1948), у 1950—60-я гады — шэраг партрэтаў Леніна, статую «Беларусь сацыялістычная» для павільёна БССР на ВДНГ у Маскве. Адзін з аўтараў Кургана Славы Савецкай Арміі — вызваліцельніцы Беларусі (арх. А. Стаховіч, 1969; Дзярж. прэмія БССР, 1970), мемарыяльнага комплексу Брэсцкая крэпасць-герой (1971). Стварыў партрэты Я. Купалы (для Літ. музея Я. Купалы і Дзярж. мастацкага музея БССР у Мінску), А. Блока, І. Шамякіна і інш. Старшыня праўлення Саюза мастакоў БССР у 1950—54 і з 1982. Дэп. Вярх. Савета БССР у 1967—75. Чл. ЦК КПБ у 1976—80.

*Літ.:* Орлова М. Андрей Ооуфриевич Бембель. М., 1958.

**БЕНЕДЫКЦІ́НЦЫ,** манахі найстарэйшага ў Еўропе каталіцкага манаскага ордэна святога Бенядзікта (лац. Ordo Sancti Benedicti). Заснаваны ў 530 Бенядзіктам Нурсійскім (ён быў і аўта-

рам статута) у г. Монтэкасіна (Італія). Статут патрабаваў ад Б. сталага жыхарства ў кляштары (кляўзуры), паслушэнства, устрымання і беднасці. Мэта ордэна (харызмат) — кантэмпляцыя (прывядзенне псіхікі ў стан глыбокай засяроджанасці), фізічная і разумовая праца, выхаванне моладзі. Адным з абавязкаў Б. было правядзенне ўрачыстай літургіі. У 9—10 ст. кляштары Б. мелі аўтаномію, карысталіся шматлікімі прывілеямі, сабралі значныя багацці. Гэта прывяло да адыходу ад статута ордэна. Дзеля вяртання да першапачатковых ідэалаў была праведзена Клюнійская рэформа (10—11 ст.), у выніку якой ўтварыліся новыя кангрэгацыі. *картузаў*, цыстэрцыянцаў, трапістаў, камедулаў Б. адыгралі вял. ролю ў развіцці каталіцкай тэалогіі, умацаванні каталіцкай царквы і папства. Шматлікія кляштары Б. мелі свае школы, буйныя б-кі з рэдкімі зборамі, скрыпторыі, дзе перапісваліся кнігі і летапісы. У 13 ст. Б. страцілі першынство, саступіўшы яго *даміканцам* і *францысканцам* У 11—13 ст. Б. ўдзельнічалі ў місіянерскай дзейнасці на слав. землях і ў Прыбалтыцы. У ВКЛ яны прыйшлі з Польшчы, на Беларусі Б. мелі кляштары ў Гарадзішчы каля Пінска (1659—1855, фундатар ваявода полацкі Ян Караль Копец; заснаваны манахамі, якія прыйшлі з Монтэкасіна, таму атрымаў назву Castrum Cassinum — «Пастаянны лагер Касіна»), Мінску (1700—1832, фундатар жонка менскага харунжага Стацкевіча), у Нясвіжы (1673—1864, фундатар Мікалай Радзівіл). Былі і жаночыя кляштары Б.: у Мінску (1632—1867, фундатары Крыштаф Хадкевіч, ваявода віленскі, і Войцех Сялява, канонік віленскі), Оршы (?—1669, фундатар невядомы), Нясвіжы (1590—1872, фундатар Мікалай Радзівіл Сіротка), Слоніме (1669—1850, фундатар Ганна Пшэўлуцкая; першыя манашкі прыйшлі сюды з закрытага смаленскага кляштара, таму наз. Exulantki Smolenski — смаленскія выгнанніцы). Пры жаночых кляштарах існавалі школы для дзяўчатак са шляхецкіх сем'яў У ВКЛ манашкі-Б. мелі права прышываць да вэлюму крыж с ярка-чырвонага аксаміту як напамінак пра ахвяры ордэна ў час Паўн. вайны 1700—21. Пасля далучэння Беларусі да Рас. імперыі царскі ўрад аб'яднаў кляштары Б. і інш. каталіцкіх манаскіх ордэнаў у бенедыкцінска-цыстэрцыянска-камедула-картузскую кангрэгацыю. Пасля паўстанняў 1830—31 і 1863—64 на Беларусі кляштары Б. былі закрыты. У Зах. Еўропе ў 1893 папа Леў XIII заснаваў федэрацыю Б., якая пацверджана статутам папы Пія XII у 1952. Гэты ж папа ў 1947 прысвоіў Бенядзікту Нурсійскаму тытул «Бацька Еўропы», а папа Павел VI у 1964 абвясціў яго «патронам Еўропы» У 1980 папа Іаан Павел II даў яму «сапатронаў» — святых Кірылу і Мяфодзія.

*Літ* Zakony męskie w Polsce w 1772 roku Lublin, 1972 (Materiały do Atlasu

А А Бембель.

historycznego chrześcijanstwa w Polsce, T 1), Holzherr G Reguła benedyktyńska w zyciu chrześcijanskim Tyniec, 1988, Kurczewski J Biskupstwo Wilenskie. Wilno, 1912 *Л А Карнілава*

**БЕ́НЕК** Казімір Францавіч [24.1 (5.2).1895, в. Радашавічы Велюньскага пав. Калішскай губ., цяпер Серадзскае ваяв ў Польшчы — лют. 1938], дзяржаўны дзеяч БССР. З 1912 у рэв. руху чл. с-д. гуртка, распаўсюджваў антыўрадавыя лістоўкі, за што ў 1914 арыштаваны і зняволены ў Модлінскую крэпасць, адкуль уцек Працаваў на з-дах Крывога Рога, Екацярынаслава, Каменскага. Пасля Лют. рэвалюцыі 1917 у г. Каменскае: уступіў у РСДРП(б), чл. і сакратар выканкома гар. Савета, пам. ваенкома раена, чл. гар. думы (па спісе бальшавікоў), камісар па польскіх справах. Удзельнік Кастр. рэвалюцыі 1917 у Маскве Вясной 1918 у чырвонагвардзейскім атрадзе ваяваў супраць ням. войск, быў губ камісарам па польскіх справах у Варонежы. Са снеж. 1918 камісар камандных курсаў Зах. стралк. дывізіі, нам. нач. палітаддзела 8-й дывізіі, інструктар палітаддзела 16-й арміі. У 1920—23 сакратар Магілёўскага пав. к-та партыі, старшыня Магілёўскага пав. выканкома, заг. аддзела кіравання Гомельскага губвыканкома. У час парт. чысткі (1921) неабгрунтавана абвінавачаны ў пралетарскай ненадзейнасці — «нацыяналістычных, сялянскіх ухілах», а пазней — у шпіянажы. Аднак яго высокі аўтарытэт сярод членаў партыі дапамог яму пазбегнуць выключэння з партыі і рэпрэсій. У 1923 у распараджэнні ЦК РКП(б), сакратар Барысаўскага пав. к-та КП(б)Б. З 1924 у органах парт.-дзярж. кантролю чл. ЦКК КП(б)Б і яе Прэзідыума, чл. калегіі Наркамата РСІ БССР, заг яго эканам. інспекцый, нам. старшыні ЦКК, нам. наркома РСІ. Нарком працы (1927—29), гандлю (1929—30), земляробства (1933—37) БССР, нам. старшыні СНК БССР (1930—34). Чл. ЦК з 1927 і Бюро ЦК КП(б)Б з 1930 Чл. ЦВК БССР з 1924 і яго Прэзідыума з 1931. Чл. ЦВК СССР з 1931. 9.5.1937 Б. арыштаваны органамі НКУС. У ходзе следства спрабаваў скончыць жыццё самагубствам. 21.10.1937 пазасудовым органам, т. зв. двойкай, прыгавораны да расстрэлу. Расстраляны ў Мінску. Пасмяротна рэабілітаваны ў 1956.

*М Б Несцяровіч*

**БЕ́НІГСЕН** Лявонцій Лявонцьевіч (Левін Аўгуст Тэафіль, 10.2.1745, Брауншвейг — 3 10 1826), ваенны дзеяч, генерал ад кавалерыі (1802). Граф (1813). Паходзіў са стараж. гановерскага баронскага роду. Служыў у арміі Гановера, удзельнік Сямігадовай вайны 1756—63. У 1773 у чыне падпалкоўніка перайшоў на ваен. службу ў Расіі. Пад камандаваннем А В Суворава ўдзельнічаў у задушэнні сял. вайны 1773—75 пад кіраўніцтвам Е. Пугачова. Удзельнік паходаў рус. арміі на Балканы супраць Турцыі ў 1774, 1787, 1789 і 1790. Вызначыўся пры асадзе Ачакава (1788) У 1792 удзельнічаў у бітве супраць бел.-літоўскага войска пад Мірам (19 мая) і праследаванні кавалерыі да Слоніма, у асадзе Нясвіжскага замка, баях пад Зэльваю, Ваўкавыскам, каля р. Буг (2 ліп.). У час *паўстання 1794* Б. са сваім атрадам дзейнічаў паміж Ашмянамі і Дзісной, нанёс паражэнне паўстанцам каля мяст. Солы, за што атрымаў чын ген.-маера. Пасля дзейнічаў на тэр. Літвы заняў Коўна, садзейнічаў узяццю рус. войскамі Вільні. За гэту кампанію атрымаў 1080 душ прыгонных сялян у Слуцкім пав. Удзельнічаў у рус-персідскай вайне 1796, узяцці Дэрбента. У 1798 узведзены ў чын ген.-лейтэнанта. Б.— удзельнік дварцовага перавароту 11.3.1801 (забойства Паўла I) уварваўшыся на чале групы афіцэраў у пакоі імператара, ён асабіста задушыў Паўла шалікам і ўдарыў па галаве цяжкай сярэбранай табакеркай. У 1801—04 Б — віленскі ваен губернатар У час вайны з Францыяй 1806—07 камандаваў корпусам, атрымаў перамогу каля Пултуска. Быў прызначаны галоўнакамандуючым рус. арміяй, атрымаў некалькі перамог, але пацярпеў паражэнне ў бітве пад Фрыдландам. У час *Айчыннай вайны 1812* інтрыгаваў супраць М. Б. Барклая-дэ-Толі з мэтай заняць яго месца. У жн. 1812 прызначаны в. а. начальніка Гал. штаба. Удзельнічаў у Барадзінскай бітве, камандаваў боем каля Тарућіна. За інтрыгі і процідзеянне М. І. Кутузаву ў ліст. 1812 зняты з пасады. У якасці камандуючага рэзервовай арміяй удзельнічаў у замежных паходах рус. войск 1813—14. Вызначыўся ў бітве пад Лейпцыгам (кастр. 1813), за што атрымаў графскі тытул. У 1814 асадзіў корпус Л. Н. Даву ў Гамбургу, але не здолеў заняць горад да крас. 1814 (да адрачэння Напалеона). У 1814—18 камандуючы 2-й рус. (паўднёвай) арміяй у Бесарабіі. За няўмелае камандаванне звольнены са службы. Пакінуў Расію і

вярнуўся ў Гановер, дзе і памер у сваім маентку.

*Тв.* Записки графа Л. Л Беннигсена о войне с Наполеоном 1807 года // Русская старина 1899 № 7—10, 12, 1900 № 1—3, Gedanken über einige Kentnisse, die einem Officier der leichten Kavalerie nötig sind Riga, 1794 2 Aufl Wilno, 1805

*Літ* Маркс К, Энгельс Ф Беннигсен // Соч 2 изд Т 14 С. 113—116, Адрианов С Беннигсен // Русский биографический словарь Спб., 1990 Т 2; Деяния российских полководцев и генералов. Ч 1 Спб., 1822

*А П Грыцкевіч*

**БЕ́НІЦА**, Бейніца, веска ў Лебедзеўскім сельсавеце Маладзечанскага р-на, на р. Беніčанка (Маразянка) За 21 км ад Маладзечна, 16 км ад чыг. ст. Пруды. На скрыжаванні дарог на Маладзечна, Крэва, Смаргонь, Заскавічы, 279 ж., 123 двары (1990). Вядома з 15 ст. як сяло Маркаўскай вол. Віленскага ваяв., з сярэдзіны 16 ст. сяло-маёнтак Ашмянскага пав. У дакументах упершыню ўпамінаецца пад 1507. У 1554 належала роду Астравухаў, у 1576 А. Астравух прадаў яе С. Валовічу. У 1634—1813 належала роду Коцелаў (Катлоў); найб вядомыя сярод іх Самуэль Геранім Коцел (памер у 1686), дзедзіч Б., маршалак ашмянскі, пасол на сойм, пісар скарбовы ВКЛ. Яго сын Міхал Казімір Коцел (памер у 1722), дзедзіч Б., падскарбі ВКЛ, кашталян трокскі, віцебскі, прызнаваў, што «бейніцкія даўгі» не малыя і ен іх пакрывае за кошт далучаных фальваркаў Сівіцы, Рэдзек, Нялідак, Заскавіч і інш Апошні з роду Коцелаў — Міхал Казімір (1767—1813, пахаваны ў Б.) — ротмістр кавалерыі, ген.-м. у паўстанцкіх войсках Т. Касцюшкі, шамбелян караля Станіслава Аўгуста, пашырыў уладанні за кошт Язна, Дубніка, Гарадзілава, Юзафполя У 1701 у Б. пабудаваны Троіцкі касцел бернардзінцаў У весцы знаходзіліся таксама помнік архітэктуры — лямус, пабудаваны ў стылі ракако (арх. Дж. Сака), з «падценем» на фасадзе, сядзібны дом. У Б. пры двары Коцелаў жыў і працаваў філосаф П. Мотвіл, былі б-ка, архіў, мастацкая галерэя, парк, сад, сажалкі з каналамі. У 1812 у Б. спыняўся Напалеон у час уцекаў з Расіі. Зала ў палацы, дзе жыў Напалеон, была ператворана ў мемарыяльную. Ад бяздзетнага М. Коцела Б. перайшла яго пляменніцы, якая была замужам за Казімірам Швыкоўскім (род апошняга працягваўся да 1939). У 19 — пач. 20 ст. Б.— мястэчка, цэнтр воласці Ашмянскага пав. У Б. бывалі М. Агінскі, Т. Зан, Ян са Свіслачы (Я. Ходзька), С. Манюшка, В. Дмахоўскі, Н. Орда, А. Концкі, Г. Пузына, У. Сыракомля, У. Дмахоўскі, Ф. Багушэвіч. Кляштар бернардзінцаў праіснаваў да 1854, касцел ператвораны ў праваслаўную царкву. У 1886 тут пабудавана новая царква.

Касцел Іаана Хрысціцеля ў в Беняконі.

З 1813 дзейнічала школа, з 1862 нар. вучылішча. У 1-ю сусв. вайну Б. знаходзілася ў прыфрантавой зоне, былі пашкоджаны помнікі архітэктуры. Сав. ўлада ўстаноўлена ў 1917. У 1919 дзейнічаў валрэўком. У 1921—39 Б.— цэнтр гміны Маладзечанскага пав. Віленскага ваяводства Польшчы. У 1940—59 цэнтр сельсавета. У час Вял. Айч. вайны палац Швыкоўскіх згарэў, муры знішчаны ў 1987. У 1949 у Б. арганізаваны калгас «Чырвоны прамень». З 1976 у складзе калгаса «Светлы шлях». У 1948 касцел і царква зачынены і ператвораны ў склады, што давяло іх да аварыйнага стану, з 1988 ідзе рэстаўрацыя. У Б. жыў і памер бел. паэт С. Шыманоўскі, адзін з яго вершаў названы «Беніца». Васьмігадовая школа, б-ка, бальніца, аддзяленне сувязі.

*Літ* Каханоўскі Г А Повязь часоў Мн, 1985 С 54—55; Ліс А Станіслаў Шыманоўскі // Дзень паэзіі, 76 Мн, 1976, Jankowski Cz Powiat Oszmiański Рв, 1896 Cz 1 S 301—330

*Г А Каханоўскі*

**БЕНКА́РТ**, незаконнанароджаны, пазашлюбны, у 16 — 1-й пал. 19 ст. асоба, народжаная ад бацькоў, паміж якімі не быў заключаны законны шлюб. Паняцце «законнанароджанае» дзіця з'явілася ў сувязі з замацаваннем манагаміі і ўстанаўленнем законнасці шлюбу. Дыферэнцыяцыя на законны шлюб і сужыцце (канкубінат), на «законнанароджаных» і «незаконнанароджаных» існавала ў рымскім праве. З распаўсюджаннем хрысціянства законным пачаў лічыцца царк. шлюб, заключаны паводле норм кананічнага права. У ВКЛ, у т. л. на Беларусі, царк. шлюб канчаткова зацвердзіўся ў 2-й пал. 16 ст., аднак на працягу доўгі час прызнаваліся шлюбы, заключаныя паводле *звычаевага права. Статуты Вялікага княства Літоўскага* вызначалі Б. як асобу, пазбаўленую сваіх саслоўных правоў, падкрэслівалі значэнне законнага шлюбу для інстытута права на спадчыну, патрабавалі выконваць царк. законы ў адносінах дзейснасці шлюбу. *Статут Вялікага княства Літоўскага 1588* адносіў да Б. дзяцей, народжаных «не з венчальную и нешлюбную жоною», дзяцей, якіх бацька не прызнаў сваімі ў непрацяглы час пасля іх нараджэння, а таксама народжаных у шлюбе, які паводле кананічнага права быў прызнаны несапраўдным, таму што быў заключаны паміж асобамі, што былі ў забароненых ступенях роднасці і сваяцтва і ведалі пра гэта. Калі бацька меў законную жонку і пасля яе смерці ўзяў шлюб з маці Б., статус апошняга не мяняўся. Дзеці, народжаныя ў гэтым шлюбе, таксама лічыліся Б. Статуты ВКЛ не закраналі выпадкаў нараджэння дзяцей у жанчын, якія далі зарок цнатлівасці, аднак паводле царк. правіл такія дзеці таксама лічыліся Б. Яны не мелі права быць спадкаемцамі свайго бацькі, атрымлівалі ў спадчыну шляхецкія правы, аднак маглі быць спадкаемцамі маці, што адпавядала норме рымскага права. Паводле гэтай нормы, законнанароджаныя дзеці атрымліваюць спадчыну пасля бацькі, а незаконнанароджаныя — пасля маці. Асобы, народжаныя ў шлюбе, што быў скасаваны ў сувязі з забароненымі ступенямі роднасці і сваяцтва, не маглі быць спадкаемцамі і маці. Аднак прызнавалася права маці Б. на галоўшчыну за забітага сына. Гэтым ускосна прызнавалася атрыманне спадчыны маці пасля сына, што дапускае атрыманне спадчыны сына пасля маці. Акрамя таго, пры ўмове, калі бацька Б. возьме законны шлюб з яго маці, існаваў інстытут легітымацыі (узаконення) Б. на аснове кананічных правіл 1172 папы Аляксандра III. Такая легітымацыя была анулявана ў часы праўлення С. Баторыя [1575—86]. Аднак на практыцы яна ажыццяўлялася шляхам *набілітацыі* (каралеўскай уладай або на соймах) пры абавязковай умове заключэння царк. шлюбу бацькамі Б., бо справы аб легітымацыі незаконнанароджаных належалі да царк. юрысдыкцыі (гл. ў арт. *Царкоўнае права*).

*Літ* Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 Мн, 1989; Памятники древнерусского канонического права Ч 1 Спб, 1880; Леонтович Ф И Правоспособность литовско-русской шляхты // Журн Мин-ва нар просвещения Н С 1908 Ч 14, март; Левицкий О П О семейных отношениях в юго-западной Руси в XVI—XVII вв // Русская старина 1880, нояб *Г В Дзербіна*

**БЕНЯКО́НІ**, веска ў Воранаўскім р-не. Цэнтр сельсавета. У саўгасе імя Ю. А. Гагарына. Чыг. ст. на лініі Ліда—Вільнюс За 12 км на Пн ад Воранава, на шашы Ліда—Вільнюс. 545 двароў, 1512 ж. (1991). У 1-й пал. 17 ст. Б. ў ВКЛ, належалі Яну Чаплінскаму, які ў 1634 заснаваў тут драўляны касцел Іаана Хрысціцеля. З 1795 у складзе Рас. імперыі. У 1880-я гады ў Б 63 ж., дзейнічаў млын, была пач. школа. У 19 — пач. 20 ст. мястэчка, цэнтр воласці Лідскага пав. Віленскай губ. У 1910 непадалеку ад Б. створана доследная с.-г. станцыя (дзейнічала да 1959). У 1-ю сусветную вайну Б. акупіраваны герм. войскамі. З 1921 у складзе Польшчы, з 1939 — у БССР. З 12.10.1940 цэнтр сельсавета Воранаўскага р-на. У Вял. Айч. вайну акупіраваны ням.-фаш. вой-

скамі, вызвалены ў ліп. 1944 у ходзе *Вільнюскай аперацыі 1944* У 1970 502 двары, 1726 ж. Цяпер у Б. дапаможны цэх племзавода. Захаваўся помнік архітэктуры пач. 20 ст. касцел Іаана Хрысціцеля. На могілках пахавана М. Путкамер (з Верашчакаў; каля 1800—1856) — каханая А. Міцкевіча, сяброўка Я. Чачота і інш. філаматаў.

*Літ* Żmigrodzki J. Nowogrodek i okolice Nowogrodek, 1927 S 51

*В У Шаблюк*

**БЕНЯШЭ́ВІЧ** Уладзімір Мікалаевіч [9 (21) 8.1874, г. Друя Дзісенскага пав. Віленскай губ., цяпер Браслаўскі р-н — 27 I 1938], візантыніст, гісторык царкоўнага права, палеограф Чл.-кар АН СССР (1925), Берлінскай, Мюнхенскай, Страсбургскай акадэмій навук, ганаровы чл Афінскага т-ва візанціназнаўства. Скончыў юрыд. ф-т Пецярбургскага ун-та (1897), слухаў лекцыі ў Лейпцыгскім, Берлінскім, Гейдэльбергскім ун-тах (1897—1900) Працаваў у замежных б-ках, вывучаў стараж. рукапісы. З 1905 прыват-дацэнт, з 1909 праф. Пецярбургскага ун-та. Рэдактар «Помнікаў старажытнарускага кананічнага права» (ч. 1, 2 выд., 1908; ч. 2, вып. 1, 1920), «Агляду прац па славяназнаўству, 1908—1913» (1909—18), які можна лічыць бібліяграфіяй па гісторыі, этнаграфіі, мовазнаўстве і л-ры Беларусі. У гады сав. улады праф. Ленінградскага ун-та і гал. бібліятэкар аддзела рукапісаў Публічнай б-кі. Неаднаразова рэпрэсіраваны па абвінавачваннях у шпіянажы і контррэв. дзейнасці, 14.6.1929 засуджаны на 3 гады турмы, 8.8.1931 — на 5 гадоў лагераў. За яго пісьмова хадайнічалі А. Эйнштэйн і Ф. Нансен, у 1933 вызвалены па хадайніцтве У. Дз. Бонч-Бруевіча. 27 11.1937 зноў арыштаваны і расстраляны разам з двума сынамі і братам. Рэабілітаваны ў 1958.

*Тв* · Древнеславянская кормчая XIV титулов без толкований Т 1. Спб., 1906—07, Описание греческих рукописей монастыря св Екатерины на Синае Т 1, 3 Спб, 1911—17, Очерки по истории Византии Вып 1—4 Спб., 1912—15, Синагога в 50 титулов и другие юридические сборники Иоанна Схоластика Спб., 1914, Сборник памятников по истории церковного права, преимущественно русской церкви до эпохи Петра Великого Вып 1—2 Пг, 1914—15

*Літ* Гранстрем Е Э В Н Бенешевич (к 100-летию со дня рождения) // Византийский временник 1973 Т 35

*А. Я Розумау*

У М Беняшэвіч.

**БЕРАГАВА́Я СЛАБАДА́**, стаянка *верхнедняпроўскай культуры* позняга мезаліту каля в. Берагавая Слабада Рэчыцкага р-на. На зах ускраіне вёскі, за 200 м ад Дняпра. Даўжыня пляцоўкі 1000 м. Выявіў у 1977 і даследаваў у 1978—83 У. П. Ксяндзоў. Культурны пласт 0,3 м, залягае на глыбіні 0,2—0,5 м, у верхняй частцы разбураны ворывам На пл 975 $м^2$ ускрыта частка мезалітычнага гасп.-бытавога комплексу: рэшткі агнішчаў, паглыбленага ў зямлю прамавугольнага жытла памерам 4,3×3,8 м, ямы закругленай і авальнай формы. Знойдзена каля 7 тыс прылад з мелавога («сожскага») крэменю шэрага колеру, кварцыту сіметрычныя і асіметрычныя тронкавыя постсвідэрскія наканечнікі стрэл, канцавыя скрабкі, сярэдзінныя, бакавыя і вуглавыя разцы, праколкі, скоблі, свердлы, укладышы, сякеры і інш. Датуецца 6—5-м тысячагоддзем да н. э.

*Літ* · Ксензов В П Мезолитическое поселение Береговая Слобода // Краткие сообщения Ин-та археологии АН СССР М, 1981, вып 165, Его ж Палеолит и мезолит Белорусского Поднепровья Мн, 1988

*У П Ксяндзоў*

**БЕРАЖКО́Ў** Мікалай Георгіевіч (12.6. 1886—12.3.1956), гісторык. Вучань М К. *Любаўскага*. Скончыў Маскоўскі ун-т. Працаваў у Маск. архіве Мін-ва юстыцыі. З 1917 выкладаў у Маск. археал ін-це, Ніжагародскім ун-це і інш. З 1924 працаваў у Музеі рэвалюцыі, з 1934 у музеі «Катарга і ссылка», з 1935 у Ін-це гісторыі АН СССР. Займаўся крыніцазнаўствам, гісторыяй ВКЛ, якому прысвяціў серыю артыкулаў. Асн. яго даследаваннем з'яўляецца доктарская дысертацыя «Літоўская метрыка як гістарычная крыніца» (Ч. 1 М, 1946) Апошнія гады жыцця займаўся храналогіяй рускіх летапісаў.

*Літ* Улащик Н. Н. Н Г Бережков // Проблемы источниковедения М., 1958 [Вып] 6

*Дз У Караў*

**БЕРАЖНА́**, веска ў Мірскім пасялковым Савеце Карэліцкага р-на, на р. Неман. За 45 км на У ад Карэліч, 27 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Мінск — Баранавічы 139 двароў, 247 ж (1991) У пісьмовых крыніцах згадваецца з 1-й чвэрці 16 ст. Паводле мясц падання, першым жыхаром Б. быў рыбак. У 1-й пал 16 ст належала маршалку дворнаму Юрыю Іванавічу Іллінічу Уваходзіла ў склад маентка Мір. Існавалі прыстань на Немане, склады («спіхлеры») для тавараў. Б. размяшчалася на гандл шляху Менск—Мір. У 1526 згадваецца як адзін з пунктаў на шляху аўстрыйскага пасла С *Герберштэйна* ў Маскву. У 17—18 ст у складзе Мірскага графства Навагрудскага ваяв. У 1647 у Б. 24 двары З 1793 у складзе Рас. імперыі, веска Навагрудскага пав Мінскай губ У 1886 у Б. 51 двор, 460 ж. Жыхары вескі займаліся земляробствам, сплавам лесу, лавілі рыбу Мелі вядомасць мясц лоцманы. У час 1-й сусв вайны веска з 1915 акупіравана германскімі войскамі З 1921 у Стаўбцоўскім пав. Навагрудскага ваяв. Польшчы У 1928 тут адкрыта с.-г. школа па падрыхтоўцы хатніх гаспадынь, якая валодала 29 га зямлі. Маентак у Б належаў палк. Тамялоўскаму З 1939 веска ў складзе БССР У час Вял Айч. вайны ў чэрв 1941 акупіравана ням -фаш. войскамі. Вызвалена ў ліп. 1944 часцямі Чырвонай Арміі ў ходзе Беларускай аперацыі 1944 У цяперашні час у складзе саўгаса «Мірскі». Пачатковая школа. Помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч вайну Захаваўся помнік архітэктуры 2-й пал 19 ст — Казанская царква

*Літ* Syrokomla W Niemen od zrodeł do ujścia Wilno, 1861 S 29, Odlanicki-Poczobutt S Województwo nowogrodzkie Wilno, 1936 S 123—126

*В У Шаблюк*

**БЕРАЗВЕ́ЦКІ ЛА́ГЕР СМЕ́РЦІ**, шталаг № 351 Створаны ням.-фаш. акупантамі для масавай загубы сав ваеннапалонных у в. *Беразвечча* (цяпер у межах г Глыбокае) у вер 1941 на тэр былога базыльянскага манастыра. У абгароджаным калючым дротам лагеры (тэр. каля 3 га) пабудоў

Помнік на могілках вязняў Беразвецкага лагера смерці.

не было, вязняў трымалі пад адкрытым небам, амаль не кармілі. Ад непасільнай працы, голаду, холаду, хвароб штодзень паміралі сотні людзей. Гітлераўцы ўчынялі масавыя расстрэлы. Зімой трупы не паспявалі вывозіць і закопваць, іх кідалі ў возера. З канца 1943, пасля выхаду Італіі з гітлераўскай кааліцыі, у лагер прывозілі італьянскіх салдат і афіцэраў. Каб замесці сляды сваіх злачынстваў, гітлераўцы перад расстрэлам распраналі асуджаных, адбіралі дакументы і асабістыя рэчы. За час існавання лагера да ліп. 1944 тут загублена больш за 27 тыс. ваеннапалонных. Ва ўрочышчы Барок, за 500 м ад б. лагера, на могілках сав. і італьянскіх ваеннапалонных (56 ям-магіл) пастаўлены помнікі.

*Літ.:* Преступления немецко-фашистских оккупантов в Белоруссии, 1941—1944. [2 изд.]. Мн., 1965; Михайлов В. В., Романовский В. Ф. Нельзя простить. Мн., 1967. *А. І. Валахановіч.*

**БЕРАЗВЕ́ЧЧА**, Беразавец, Бярэзбічы, Бярэзвячы, Беразвіч, былая вёска ў Глыбоцкім р-не. Размяшчалася за 3 км на Пн ад Глыбокага, паміж азёрамі Вялікае і Мушкат.

Упершыню ўпамінаецца ў 14 ст. ў грамаце кн. Андрэя Полацкага, дадзенай нашчадкам роду Корсакаў, Фёдару і Дзмітрыю, на права валодання землямі «на Беразвячы» і ўстанаўлення зах. парубежжа іх уладанняў. Уваходзіла ў Полацкае ваяводства ВКЛ. У пач. 16 ст. ў Б. была праваслаўная царква, месца пахавання продкаў Корсакаў. У час вайны Маскоўскай дзяржавы з ВКЛ 1512—22 спалена ў 1519 рус. войскам. У сярэдзіне 16 ст. уладанне Дзмітрыя Багданавіча Корсака. Паводле Полацкай рэвізіі 1552, у мястэчку Б. налічвалася 40 дамоў і 40 мяшчан. 30.4.1638 Восіп Корсак завяшчаў заснаваць у Б. базыльянскі манастыр (пачаў дзейнічаць з 1643), якому перадаваліся землі маёнткаў Б. і Вярбілава (цяпер в. *Вольберавічы*). На сродкі апошніх манахі павінны былі пабудаваць царкву. Пасля ўзвядзення ў 1756—63 мураваных будынкаў манастыра і царквы Б. стала месцам знаходжання уніяцкага мітрапаліта Лісоўскага. Сярод манастырскіх гасп. пабудоў былі бровар, 2 млыны; для царкоўных служак пабудавана 12 дамоў. У 1782 у Б. заснавана 6-класная базыльянская школа, дзе вучыліся дзеці шляхты з Дзісенскага, Браслаўскага і Барысаўскага пав. На сродкі маёнткаў манастыра ў школе выкладалі настаўнікі і 4 прафесары, у Віленскім ун-це на манастырскія сродкі займаліся 20 стыпендыятаў. З 1793 Б. ў складзе Расійскай імперыі ў Дзісенскім пав. У 1834 базыльянская школаператворана ў 4-класнае праваслаўнае духоўнае вучылішча, перададзена ад уніятаў у праваслаўнае кіраванне; у 1843 перайшло ў кіраванне Літ. духоўнай семінарыі. Усе ўладанні манастыра былі канфіскаваны, землі распрададзены і падзелены паміж вёскамі. Гэта прывяло да заняпаду манастыра, і ў 1874 ён быў зачынены. У 1910 перабудавана царква, пазней адкрыты вучылішча і жаночы манастыр. З 1921 Б. ў складзе Польшчы. У 1921—39 у Б. размяшчалася польская пагранічная часць. З вер. 1939 у БССР, з 15.1.1940 у Глыбоцкім р-не. У 1939—41 тут была турма НКУС, многія вязні якой у пачатку Вял. Айч. вайны расстраляны ахоўнікамі. У 1941—44 вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія стварылі тут *Беразвецкі лагер смерці*. З 1960-х гадоў Б. ў межах г. Глыбокае.

Мястэчка **Беразіно** (Докшыцкі р-н) на ваенна-тапаграфічнай карце Расіі. 1850.

*Літ.:* Материалы по истории и географии Дисненского и Вилейского уездов Виленской губернии. Витебск, 1896; Полоцкие грамоты XIII — начала XVI вв. М., 1977. С. 43—44. *Я. У. Бунто.*

**БЕРАЗІНО́**, горад, цэнтр Бярэзінскага р-на, прыстань на р. Бярэзіна. За 101 км на У ад Мінска, за 50 км ад чыг. ст. Градзянка, на аўтадарозе Мінск—Магілёў. Упершыню ўпамінаецца 7.6.1501 як мястэчка ў Любашанскім старостве ВКЛ. З 1560-х гадоў уваходзіла ў Мінскі пав. Называлася таксама Ніжняе Беразіно, Беразіно Любашанскае. З сярэдзіны 16 ст. належала *Сапегам*, адзін з якіх, Лявон Сапега, у 1641 пабудаваў драўляны касцёл (згарэў у 1914). З 1668 Б. мела прывілей караля Яна Казіміра на гандаль і штогадовы кірмаш. З 1671 належала магнацкаму роду *Тышкевічаў*. У час антыфеад. вайны 1648—51 тут адбыліся баі (лета 1648). Супраць урадавых войск змагаліся казакі Антона Нябабы, у атрадах якога было нямала беларусаў. У час Паўночнай вайны шведскі кароль Карл XII прайшоў з Мінска праз Ігумен каля Б., дзе 16—17.7.1708 пераправіўся з арміяй цераз р. Бярэзіна. З 1793 Б. ў складзе Рас. імперыі, мястэчка Пагосцкай вол. Ігуменскага пав., належала магнатам *Патоцкім*. У час нашэсця Напалеона мястэчка і яго ваколіцы былі арэнай баявых дзеянняў (восень 1812). У 1-й пал. 19 ст. ў Б. дзейнічала суконная мануфактура, якая ў 1840 дала 7740 аршынаў сукна. У 1858 у Б. 1086 ж., 459 дамоў; у 1880 — 3181 жыхар. Бярэзінскія купцы гандлявалі дрэвам, прадуктамі са смалы, пянькой, якія сплаўлялі ў парты Балтыйскага і Чорнага мораў. З местачковай прыстані адпраўлялася больш за 5500 тыс. пудоў тавараў, прыбывала больш за 70 тыс. пудоў. Адмена прыгоннага права садзейнічала ператварэнню мястэчка ў прамысл.-гандлёвы цэнтр. З 1892 тут працаалі бровар, канатная ф-ка, млын (у 1896 устаноўлена паравая машына). Паводле перапісу 1897, у Б. 4987 ж.; працавалі нар. вучылішча (з 1864), школа, аптэка, паштова-тэлеграфная кантора. Ёсць звесткі пра існаванне ў Б. ў 1901—04 рабочай арганізацыі. 1.3.1905 у Б. баставалі падмайстры краўцоў, шаўцоў, шкарпэтнікаў. На задушэнне хвалявання мінскі губернатар паслаў у Б. паўэскадрона драгунаў. 30.6.1905 у мястэчку баставалі ўсе рабочыя і рамеснікі.

Сав. ўлада ўстаноўлена ў ліст. 1917. У лют.—снеж. 1918 акупіравана германскімі, са жн. 1919 да 7.7.1920 — польскімі войскамі. З 17.7.1924 Б.— цэнтр раёна ў Барысаўскай, з 9.6.1927 — Мінскай (да 23.7.1930) акругах. Працавалі суднабудаўнічая, калёсная, кравецкая, шавецкая арцелі, маслазавод, металічная і аўтамабільная майстэрні, сукнавальні, спіртзавод, райпрамкамбінат, леспрамгас, лясгас, сплаўучастак, малочна-жывёлагадоўчы саўгас «Беразіно». У 1930 у Б. 2968 ж., у

1939 — 4,8 тыс. З 15.1.1938 цэнтр раёна ў Магілёўскай вобл., з 27.9.1938 гар. пасёлак. У пач. Вял. Айч. вайны (канец чэрв.— пач. ліп. 1941) у баях каля Б. ўдзельнічалі часці 4-га паветр.-дэсантнага корпуса пад камандаваннем ген.-м. А. С. Жадава і 100-й стралк. дывізіі пад камандаваннем ген.-м. І. М. Русіянава. З 3.7.1941 Б. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі тут 1,2 тыс. жыхароў. У час акупацыі ў раёне дзейнічалі падп. РК КП(б)Б (20.7.1942—2.7.1944) і РК ЛКСМБ (ліп.— жн. 1941; 3.9.1942—2.7.1944), выходзіла падп. газ. «Сцяг Леніна». У 1943—44 у Б. дзейнічала падп. група, якую ўзначальвалі Я. Няфёдава, потым В. Каўцэвіч. Вызвалены 3.7.1944 у ходзе Беларускай аперацыі 1944 часцямі 42-й Смаленскай і 153-й стралк. дывізій 49-й арміі 2-га Бел. фронту. З 20.9. 1944 цэнтр раёна Мінскай вобл. (25.12. 1962 раён быў скасаваны, 6.1.1965 адноўлены), 7.3.1968 ператворана ў горад. У 1970 у Б. 6,9 тыс. ж., у 1989 — 12,7 тыс. У Б. маслазавод, сыраробны, спірт-, ільно-, торфабрыкетны (непадалёку ад Б.) з-ды, райпрамкамбінат, камбінат бытавога абслугоўвання, метэастанцыя, 3 сярэднія і музычная школы, 8-гадовая школа-інтэрнат, дзіцяча-юнацкая спартыўная школа, Дом культуры, кінатэатр, спартыўна-тэхн. клуб, 2 б-кі, бальніца. Выдаецца газ. «Сцяг Леніна». Помнік юным патрыётам, якія загінулі ў гады Вял. Айч. вайны; 2 брацкія магілы сав. воінаў і партызан, якія загінулі ў 1941—44, брацкія магілы партызан і мірных жыхароў, ахвяр фашызму. Помнік архітэктуры 1-й пал. 19 ст.— сядзібны дом.

*Літ.:* Россия. Полное геогр. описание нашего отечества. Спб., 1905. Т. 9. С. 525; Харкевич В. И. 1812 год в дневниках, записках и воспоминаниях современников. Вып. 4. Вильна, 1907; Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах. Т. 1. Мн. 1936; 1905 год у Беларусі: Зб. арх. дакументаў. Мн., 1926; Иоффе Э. Г. Березино: Ист.-экон. очерк. Мн., 1986. *Э. Р. Іофе.*

**БЕРАЗІНО́**, Верхняе Беразіно, Бярэзань, вёска ў Докшыцкім р-не, на р. Бярэзіна (прыток Дняпра). За 30 км на У ад Докшыц, 40 км ад чыг. ст. Лепель. Цэнтр сельсавета і саўгаса «Чырвонабярэзінскі». 268 двароў, 593 ж. (1992).

Узнікла не пазней 14 ст. ў стараж. Харэцкай вол., якая ахоплівала верхняе цячэнне Бярэзіны. У канцы 14 ці пач. 15 ст. Б. з іншымі сёламі Харэцкай вол. падаравана віленскаму ваяводу Войцаху Манівіду. У 1408 ён атрымаў ад вял. кн. ВКЛ Вітаўта прывілей, паводле якога раней атрыманыя ўладанні (сярод іх сяляне-даннікі «беразінцы») замацоўваліся за Манівідам і яго нашчадкамі навечна. Б. паслядоўна належала сыну і ўнукам Манівіда, род якога згас у 2-й пал. 15 ст. Пасля гэтага маёнткі Манівідаў былі падзелены паміж дзвюма ўнучкамі Войцаха — Ядвігай Янаўнай, жонкай Алехны Судзімонтавіча, і яе сястрой Соф'яй, жонкай Мікалая Радзівіла. Б., верагодна, дасталося Ядвізе, бо пазней яно згадваецца як уласнасць нашчадкаў Судзімонтавіча. У канцы 15 ст. частка сял. дымоў з сяла Б. пасля шлюбу дачкі Судзімонтавіча Соф'і з кн. А. Ю. Гальшанскім перайшла да князёў Гальшанскіх, частка — да кн. С. А. Чартарыйскага (відаць, таксама зяць Судзімонтавіча). Спадкаемцам Чартарыйскага быў яго зяць Васіль Тышкевіч, да якога разам са значнай часткай спадчыны Манівіда перайшло і Б. (Березыня). Яно ўпамінаецца ў завяшчанні Тышкевіча (1570), паводле якога Б. з суседнім Асецішчам павінна было адысці яго непаўналетняму сыну ад другога шлюбу Астафію і дачцы Аляксандры. У 1594 Б. згадваецца як уласнасць Аляксандры Тышкевіч і яе мужа М. Язлавіцкага. Пазней, відаць, саўладальнікамі Манівідавай спадчыны сталі сыны М. Ю. Паца і яго жонкі Ганны, дачкі Гальшанскага, бо з канца 16 ст. асн. уладальнікамі Б. выступаюць Пацы. Пры іх Б. стала мястэчкам, цэнтрам даволі вял. маёнтка, землі якога цягнуліся абапал Бярэзіны амаль на 40 км — ад в. Адрубак да вусця р. Сергуч (прыкладна супадалі з сучаснымі межамі Бярэзінскага запаведніка). Аднак гэты лясны і балотны край быў заселены вельмі рэдка. Большасць насельніцтва жыла ў мястэчку Б. У 1682 Канстанцы Уладзіслаў Пац заснаваў тут драўляныя касцёл і кляштар бернардзінцаў (не зберагліся). Маёнтак знаходзіўся часткова ў Полацкім, часткова ў Мінскім пав. (паводле адм. рэформы ВКЛ 1565—66 мяжа паветаў праходзіла па Бярэзіне). У гіст. крыніцах мястэчка Б. часам называецца Верхняе Б. ў адрозненне ад Б. Любашанскага, што знаходзілася ў Аршанскім пав. (цяпер г. п. Беразіно Мінскай вобл.). З 1793 Б. ў складзе Рас. імперыі, у Докшыцкім, з 1796 у Барысаўскім пав. Мінскай губ. Да гэтага часу былая вотчына Пацаў падзялілася на некалькі невял. маёнткаў: Асецішча, Ліпск, Трэмбін, Улессе, Цярэспаль. Уласна Б., якое на пач. 19 ст. належала Тавянскім, страціла статус мястэчка. У 1812 яно мела 30 двароў. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. Б.— сяло, цэнтр Бярэзінскай вол. Барысаўскага пав. Мінскай губ. У 1897 было 124 двары, 788 ж. З 1924 Б.— цэнтр сельсавета ў Бягомльскім, з 1960 — у Докшыцкім (у 1962—65 у Глыбоцкім) р-нах. 232 двары, 805 ж. (1970). У вёсцы сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, дзіцячы сад і яслі, бальніца, аптэка, аддзяленне сувязі, 4 магазіны, 2 лясніцтвы. Радзіма Героя Сав. Саюза С. С. *Манковіча.* Помнікі: Манковічу, землякам, якія загінулі ў баях супраць ням.-фаш. захопнікаў у Вял. Айч. вайну; магіла падпольшчыка К. Дз. Патапейкі. Каля Б. гарадзішча 3—4 ст. н. э. з матэрыяламі культур штрыхаванай керамікі і днепрадзвінскай, курганны могільнік.

*Літ.:* Акты Виленской археографической комиссии. Вильна, 1895. Т. 22, № 632; Wolff J. Pacowie: Materyjały historyczno-genealogiczne. Pb., 1885. S. 74, 146, 148, 149, 288. *В. Л. Насевіч.*

**БЕРАСТАВІ́ЦА**, назва з 30.12.1975 да 28.3.1978 рабочага пас. *Пагранічны.*

**БЕРАСТАВІ́ЦКІ РАЁН.** На З Гродзенскай вобл. Утвораны 20.9.1944 пасля перайменавання *Крынкаўскага раёна.* Цэнтр — г. п. *Вялікая Бераставіца.* Пл. 0,9 тыс. км$^2$. 20 тыс. жыхароў. На 1.1.1991 у раёне 129 населеных пунктаў, у т. л. рабочы пас. Пагранічны, 7 сельсаветаў: Алекшыцкі, Кватарскі, Канюхоўскі, Макаравіцкі, Малабераставіцкі, Пархімаўскі, Эйсмантаўскі. Большую частку раёна займаюць адгор'і Ваўкавыскага і Гродзенскага ўзвышшаў. Працякае р. Свіслач з прытокамі Верацейка, Бераставічанка, Уснарка, Одла. Пад лесам 16 % тэр. раёна. З Пн на Пд раёна праходзіць аўтадарога Гродна—Пагранічны, з У на З — участак чыг. Ваўкавыск—Пагранічны—Беласток.

У Айч. вайну ў чэрв. 1941 тэр. раёна акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі больш за 600 чал. У раёне дзейнічалі Крынкаўскі падп. райком ЛКСМБ, партыз. брыгада імя К. Каліноўскага і 550-ы партыз. атрад. Б. р. вызвалены ў ліпені

БЕРАСТАВІЦКІ РАЁН

1944 у ходзе *Беластоцкай аперацыі 1944.* У 1944 зах. частка раёна перададзена Польшчы. У 1969 у раёне 26 тыс. чал.

Асноўнае месца ў гаспадарцы раёна займае с.-г. вытворчасць. Дзейнічаюць прадпрыемствы харчовай прам-сці, 11 калгасаў, саўгас, 8 сярэдніх, 7 няпоўных сярэдніх, 5 музычных і спартыўная школы, 2 сельскія прафес.-тэхн. вучылішчы, Дом піянераў і школьнікаў, 13 дашкольных устаноў, 9 дамоў культуры, 17 клубных, 28 бібліятэчных, 3 бальнічныя ўстановы, 15 фельчарска-акушэрскіх пунктаў. Выдаецца раённая «Бераставіцкая газета». У раёне магіла пагранічніка І. Н. Анохіна (в. Цецяроўка). Помнікі: землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, сав. воінам і землякам (в. Кашанцы), падпольшчыцы В. Соламавай (в. Канюхі); партызанам (в. Ёдзічы); на месцы гібелі падпольшчыкаў В. Соламавай і В. Бабіча (в. Жорнаўка). Мемарыяльная дошка на ўшанаванне памяці палкоўніка Чырвонай Арміі Г. Н. Ціташвілі (в. Малая Бераставіца). Захаваліся помнікі архітэктуры: царква 1871 (в. Алекшыцы), касцёл Яна Непамука 19 — пач. 20 ст. (в. Вялікія Эйсманты), царква 1860 (в. Гарбачы), капліца пач. 20 ст. (в. Глебавічы), царква пач. 19 ст. (в. Грыцавічы), Крыжаўзвіжанская царква 1885 (в. Клепачы), сядзіба 1848 (в. Лішкі), Крыжаўзвіжанскі касцёл канца 18 ст. (в. Макараўцы), Дзімітраўская царква 1866, касцёл пач. 19 ст., сядзібны дом 1912 (в. Малая Бераставіца), царква 1903 (в. Малыя Гольні), царква Раства Багародзіцы 1796, сядзіба канца 18 — 1-й пал. 19 ст. (в. Масаляны), сядзіба 2-й пал. 19 ст. (в. Муравана), сядзібны дом 1913 (в. Пархімаўцы), сядзібны дом пач. 20 ст. (в. Стары Дворац). На Бераставіччыне нарадзіўся бел. археолаг А. Дз. Каваленя (в. Кашанцы).

**БЕРАСЦЕЙСКАЕ ВАЯВОДСТВА,** адм.-тэр. адзінка ў ВКЛ у 16—17 ст. Створана ў 1566. Цэнтр — г. Берасце (Брэст). З канца 17 ст. наз. Брэст-Літоўскім ваяводствам. Гл. *Брэсцкае ваяводства.*

**БЕРАСЦЕЙСКАЯ ЗЯМЛЯ,** тэрыторыя ў басейне сярэдняга цячэння рэк Зах. Буг і Нараў у раннефеад. перыяд. Па Б. з. праходзілі важныя гандл. шляхі. Найбольшыя гарады: Бельск, Берасце, Драгічын Надбужскі, Камянец, Кобрын, Мельнік. З 10 ст. ў складзе Кіеўскай Русі, з канца 11 да сярэдзіны 12 ст. ва ўладанні тураўскіх, пасля валынскіх князёў. У 11—13 ст. тут сутыкаліся інтарэсы кіеўскіх, тураўскіх, пінскіх, мінскіх, галіцка-валынскіх, а з пач. 14 ст. і князёў ВКЛ з інтарэсамі польскіх феадалаў. Польскія князі Казімір II у 1179 і 1182, Конрад Мазавецкі і Лешка Кракаўскі ў 1210 часова захапілі пабужскія землі і Берасце. Драгічынскую воласць захапілі ням. рыцары, якіх у 1237 разбіў валынскі кн. Даніла Раманавіч. Паводле ўскосных звестак Іпацьеўскага летапісу, у 1240 сюды з Пд уварваліся мангола-татары, пад Бярэсцем адбылася бітва, але Б. з. імі не была заваявана. З пач. 14 ст. Б. з. ў складзе ВКЛ, ва ўладанні вял. князя Кейстута. У 1349 на некаторы час Б. з. захапіў польскі кароль Казімір III. У 1382 кн. Януш Мазавецкі асадзіў Берасце, захапіў Драгічын Надбужскі, Мельнік і інш. З 1413 Б. з. ў складзе *Трокскага ваяводства.* У 1566 створана Берасцейскае ваяводства.

*Літ.:* Полное собрание русских летописей. Т. 2. Ипатьевская летопись. М., 1962; Пашуто В. Т. Очерки по истории Галицко-Волынской Руси. М., 1950; Гринблат М. Я. Белорусы. Мн., 1968.

*С. А. Шчарбакоў.*

Берасцянка 12—13 ст. з Гродна.

Берасцяная грамата 13—14 ст. з Віцебска.

**БЕРАСЦЕЙСКАЯ СУСТРЭЧА 1409,** перагаворы ў Брэсце (Берасці) у час *Вялікай вайны 1409—11* паміж каралём Польшчы *Ягайлам* і вял. князем ВКЛ *Вітаўтам.* Вайна выклікана агрэсіўнай палітыкай Тэўтонскага ордэна, які на гэты час захапіў тэр. паміж вусцямі рэк Вісла і Нёман, Усх. Памор'е, Эстляндыю, Жамойцію, востраў Готланд, Новую Марку і пазбавіў рус. княствы, Польшчу і ВКЛ выхаду да Балтыйскага мора. Паходы і набегі на польскія, літоўскія і бел. землі крыжаносцы ўчынялі па некалькі разоў на год, пагражаючы самастойнасці гэтых дзяржаў. У снеж. 1408 на тайнай нарадзе ў Новагародку Ягайла і Вітаўт прынялі рашэнне аб вайне Польскага каралеўства і ВКЛ супраць Тэўтонскага ордэна. На сустрэчы ў Берасці ў снеж. 1409 на працягу 9 дзён былі прыняты рашэнні пра план летняй кампаніі 1410 і далейшы ход вайны, час і месца збору аб'яднаных ваен. сіл, пабудову пантоннага моста для пераправы цераз Віслу. На Б. с. прысутнічаў хан Джэлаладдзін (сын хана Тахтамыша), якому падпарадкоўвалася залатаардынская конніца, што была на службе ВКЛ. Паводле дамоўленасці саюзная армія складалася з 91 харугвы (палка), з іх 51 рыхтавала Польшча, 40 — ВКЛ. У склад войска ВКЛ разам з літоўскімі, рус., укр. палкамі і татарскай конніцай уваходзілі Берасцейская, Віцебская, Ваўкавыская, Драгічынская, Лідская, Пінская, Полацкая і інш. харугвы, а таксама валашскія, чэшска-мараўскія, венгерскія атрады. План, распрацаваны ў час Б. с., здзейснены 15.6.1410 у ходзе *Грунвальдскай бітвы 1410.*

**БЕРАСЦЕЙСКІ ПАВЕТ,** існаваў на тэр. Беларусі ў 16—17 ст. У складзе *Падляшскага ваяводства* вядомы з 1520. З 1566 у выніку адміністрацыйнай рэформы ВКЛ 1565—66 увайшоў у *Берасцейскае ваяводства.* Цэнтр павета — г. Бярэсце (гл. *Брэст*). На Пн, У і Пд межаваў з Ваўкавыскім, Слонімскім і Пінскім пав. Новагародскага і Берасцейскага ваяводстваў, на З — з ваяводствамі Польшчы. У складзе Б. п.: гарады з магдэбургскім правам: Камянец, Кобрын, Пружаны (Дабучын); мястэчкі: Высокае, Гарадзец, Дзівін, Мальча (цяпер Малеч), а таксама Бяроза, Ваганаў, Воўчын, Сялец, Чарнаўчыцы, Шарашова. У канцы 17 ст. павет перайменаваны ў Брэст-Літоўскі. Пазней з яго тэр. вылучаны Кобрынскі і Пружанскі паветы. Карту гл. пры арт. *Брэсцкі павет.* *М. І. Камінскі.*

**БЕРАСЦЯНКА,** невялікая пасудзіна з бяросты для захоўвання мёду, прыпраў і інш. прадуктаў. На Беларусі Б. знойдзены ў культ. пластах 12—13 ст. Грод-

на, Віцебска. Яны зроблены з суцэльнага кавалка бяросты. Гарадзенская Б. на вонкавых баках мела 4 княжацкія знакі, нанесеныя вострым прадметам; віцебская была з адтулінамі па краях для лазовых дужак. У 19—20 ст. выраблялі Б. з вечкам. Аздаблялі цісненым малюнкам у выглядзе сеткі, хваёвых лапак, кружкоў, кропак і інш.

*Літ.:* Калядзінскі Л. У., Ткачоў М. А. Драўляныя вырабы і дрэваапрацоўка ў сярэдневяковым Віцебску // Помнікі культуры: Новыя адкрыцці. Мн., 1985.

**БЕРАСЦЯ́НЫЯ ВЫ́РАБЫ**, рэчы утылітарнага і дэкаратыўна-прыкладнога прызначэння, зробленыя з бяросты (бярозавай кары). Бярозу абдзіралі вясной скруткамі ці стужкамі і высушвалі. Бяросту выкарыстоўвалі здаўна. На ёй пісалі (гл. *Берасцяныя граматы*), з яе рабілі розныя рэчы хатняга ўжытку, посуд для сыпкіх рэчываў: карабы, сявенькі, заплечныя кашалі — для збору грыбоў і ягад, бочачкі-берасцянкі, вярэнькі для захоўвання і пераносу прадуктаў і агародніны. Бяростай аплятаді для трываласці гліняны посуд — т. зв. берасцянікі (збаныгладышы, цёрлы, слоікі). Дробныя рэчы (табакеркі, сальнічкі) звычайна рабілі з некалькіх слаёў бяросты. На зробленыя з дрэва ці кардону шкатулкі, куфэркі, партсігары і іншыя вырабы наклейвалі слой бяросты з прарэзаным скразным раслінным узорам. З бяросты рабілі таксама пастухоўскія трубы і інш. У наш час дэкаратыўна-прыкладныя рэчы з бяросты вырабляюць некаторыя ф-кі мастацкіх вырабаў.

*Літ.:* Промыслы і рамёствы Беларусі. Мн., 1984; Рыбаков Б. А. Ремесло Древней Руси. М., 1948; Сахута Е. М. Народное искусство и художественные промыслы Белоруссии. Мн., 1982. *Я. М. Сахута.*

**БЕРАСЦЯ́НЫЯ ГРА́МАТЫ**, пісьмы, запіскі і дакументы 11—15 ст. на бяросце, выяўленыя пры раскопках старажытнарус. гарадоў. Адно з важных сведчанняў, што на Русі і ў ВКЛ пісьменства было пашырана не толькі сярод феадалаў, духавенства, але і простых гараджан. На тым баку бяросты, што прылягаў да дрэва, літары надрапвалі завостранай касцяной ці жал. палачкай — пісалам. Вядома каля 750 Б. г., у т. л. з Ноўгарада (першая знойдзена ў 1951), Старой Русы (23 граматы), Смаленска (10), Пскова (8), Цвяры (4), Звянігарада (3), Масквы (1). На Беларусі Б. г. выяўлены ў Віцебску і Мсціславе. Асн. тэма грамат 11—12 ст.— крэдыторства, пазыка грошай ў доўг пад працэнты ці патрабаванне вярнуць яе; 13—15 ст.— валоданне зямлёй, клопаты пра сяўбу і ўборку збожжавых, пра даходы з прамысл. угоддзяў, феад. павіннасці, абавязацельствы, завяшчанні. У Б. г. трафарэтны пачатак: ад каго і каму пасылаецца або хто каго вітае. Звесткі, якія даюць Б. г. ў галіне фанетыкі, марфалогіі і сінтаксісу, каштоўныя для гісторыі мовы. Для іх мовы характэрна адсутнасць царкоўнаслав. кніжнай лексікі. Б. г. 13—14 ст., знойдзеная ў 1959 у Віцебску, мае наступны тэкст (у перакладзе на сучасную мову): «Ад Сцяпана к Няжылу. Калі ты прадаў адзенне, то купі мне жыта на 6 грыўняў. А калі чаго не прадаў, то прышлі мне ў наяўнасці. Калі ж прадаў, то, дабрадзей мой, купі мне жыта». Зберагаецца ў Віцебскім абл. краязнаўчым музеі. У 1980 фрагмент Б. г. пач. 13 ст. знойдзены ў Мсціславе Л. В. Аляксеевым. Захаваліся 2 радкі: у першым гаворыцца пра пшаніцу на суму 4,5 грыўні, у другім — пра нейкага Сямёна. Захоўваецца ў Мсціслаўскім краязнаўчым музеі. Б. г. 11 ст., знойдзеная ў Ноўгарадзе, напісана Жыравітам, жыхаром Полацка, Смаленска або Віцебска. У асобных наўгародскіх граматах упамінаюцца «Гавъко Полоцанино» (жыхар Полацка), справа якога разбіралася ў судзе, і палонныя, выкуплены з Полацка.

*Літ.:* Арциховский А. В., Борковский В. И. Новгородские грамоты на бересте: (Из раскопок 1956—1957 гг.). М., 1963; Арциховский А. В. Новгородские грамоты на бересте: (Из раскопок 1958—1961 гг.). М., 1963; Дроченина Н. Н., Рыбаков Б. А. Берестяная грамота из Витебска // Сов. археология. 1960. № 1; Аляксееў Л. В. Берасцяная грамата // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1982. № 2; Янин В. Л., Зализняк А. А. Новгородские грамоты на бересте (из раскопок 1977—1983 гг.). М., 1986; Тарасаў С. В. З гісторыі полацкай эпіграфікі X—XV ст // Кніжная культура Беларусі. Мн., 1991. *Г. В. Штыхаў.*

А. Р. Бергман.

**БЕРГ** Мікалай Васільевіч [24.3(5.4). 1823, Масква — 16(28).6.1884], гісторык, публіцыст, паэт, перакладчык. З сям'і абруселых прыбалтыйскіх немцаў. Скончыў гісторыка-філалагічны ф-т Маскоўскага ун-та. У якасці перакладчыка ўдзельнічаў у Крымскай вайне 1853—56, аўтар «Запісак пра асаду Севастопаля» (т. 1—2, 1858). У 1859 быў у Італіі, асвятляў на старонках час. «Русский вестник» падзеі аўстра-італа-французскай вайны 1859. У час паўстання 1863—64 у Польшчы, на Беларусі і ў Літве знаходзіўся на тэр. Каралеўства Польскага, апублікаваў серыю нарысаў пра паўстанне ў газ. «Санкт-Петербургские ведомости» (1863, сак.— май) і час. «Библиотека для чтения» (1864, № 1—3). У 1864 прыняў прапанову намесніка Каралеўства Польскага Ф. Ф. Берга напісаць гісторыю паўстання, таму атрымаў доступ да унікальных дакументаў. Аналізаваў іх непрадузята, насуперак спадзяванням намесніка атрымаць апалогію карных дзеянняў царызму Б. засяродзіў увагу на асвятленні нац.-вызваленчага руху на польскіх, бел., украінскіх і літ. землях у 1830—60-я гады, даследаваў прычыны і рухаючыя сілы паўстання 1863—64. Першыя 8 раздзелаў сваёй працы апублікаваў у час. «Русский архив» (1870—72), затым яны былі выдадзены асобнай кнігай пад назвай «Запіскі пра польскія змовы і паўстанні 1831—1862» (М., 1873). Наступныя раздзелы, прысвечаныя непасрэдна паўстанню 1863—64, друкаваў у час. «Русская старина» (1879). Не атрымаўшы дазволу цалкам апублікаваць даследаванне ў Расіі, Б. выдаў яго ў Познані (у той час уваходзіла ў склад Прусіі): «Запіскі пра польскія змовы і паўстанні 1831—1864 гг.» (т. 1—4, 1884—85). Царская цэнзура забараніла ўвозіць кнігу ў імперыю. Даследаванне Б. дае шырокую панараму нац.-вызваленчага руху ў Польшчы, на Беларусі і ў Літве, змяшчае каштоўныя звесткі пра рэв. дзейнасць і светапогляд М. *Валовіча*, Ф. *Савіча*, Ш. *Канарскага*, К. *Каліноўскага* і інш. Шматлікія дакументы, выкарыстаныя Б., незваротна страчаны, што надае яго працы вартасць першакрыніцы. Б.— аўтар перакладу на рус. мову паэмы А. Міцкевіча «Пан Тадэвуш».

*Тв.:* Польское восстание в 1863—1864 гг.: Записки // Русская старина. 1879. Т. 24—26.

*Літ.:* Sztakelberg J. I. «Pamiętniki o polskich spiskach i powstaniach 1831—1864. N. W. Berga. Powstanie dzieła i jego losy // Przegląd Historyczny. 1968. T. 59, z. 1. S. 41—66. *В. Ф. Шалькевіч.*

**БЕ́РГМАН** Аляксандра Рыгораўна (дзявочае Кучкоўская; парт. псеўд. Зіна, Стаха, Малеўская і інш.; н. 1.5.1906, Гродна), дзеяч рэв. і нац.-вызваленчага руху ў Зах. Беларусі, гісторык, публіцыст. Чл. КПЗБ з 1925. Скончыла партшколы пры ЦК КПЗБ і ЦК ПАРП. Працавала сакратаром падп. акруговых к-таў КСМЗБ у Гродне, Вільні, Брэсце, Баранавічах, Беластоку. Дэлегат I з'езда КПЗБ (1928). З 1931 чл. Краявога Сакратарыята ЦК КПЗБ. З 1934 у СССР, нам. сакратара парткома з-да «Гомсельмаш». У 1935 незаконна рэпрэсіравана. З 1946 у ПНР. Супрацоўнічала ў час. «Życie Partii» («Жыццё партыі»). Даследуе гісторыю КПЗБ, Бел. рэв. арг-цыі, Бел. сялянска-работніцкай грамады, Бел. навук. т-ва ў Вільні, перыяд. друк (газеты «Наша ніва», «Вольны сцяг», «Змаганне»). Аўтар манаграфій, артыкулаў, нарысаў пра дзеячаў КПЗБ і нац.-вызваленчага руху ў Зах. Беларусі Б. Тарашкевіча, Л. Родзевіча, У. Самойлу, А. Луцкевіча, І. Дварчаніна, В. Харужую, С. Рак-Мі-

хайлоўскага, П. Мятлу, П. Валошына, М. Бурсевіча, С. Панкову, М. Перавалоцкага. Апублікавала шэраг біягр. нарысаў пра яўр. пісьменнікаў і журналістаў — ураджэнцаў Беларусі — Л. Найдуса, З. Рэйзена, Б. Клецкіна і інш.

*Тв.:* Rzecz o Bronisławie Taraszkiewiczu. Warszawa, 1977; Sprawy białoruskie w II Reczypospolitej. Warszawa, 1984. *А. С. Ліс.*

**БЕ́РДЫЖ,** група археалагічных помнікаў каля в. Бердыж Чачэрскага р-на.

Паселішча-1 эпохі верхняга палеаліту, адно з самых стараж. на тэр. Беларусі. За 3 км на Пд ад в. Бердыж, за 500 м на Пд ад в. Падлужжа, ва ўрочышчы Калодзежкі, на паўд. пакатым схіле яра, урэзанага да цокаля 2-й надпоплаўнай тэрасы правага берага р. Сож. Прыдалінны ўчастак шырынёй на месцы паселішча 150—200 м уяўляе сабой спадзісты карэнны схіл даліны вышынёй 15—20 м над летнім меженным узроўнем вады ў рацэ. Адкрыў у 1926 К. М. Палікарповіч, даследавалі ў 1927 С. М. Замятнін, у 1928—29, 1938—39 Палікарповіч, у 1958—60, 1967, 1969, 1970 У. Дз. Будзько, у 1971 А. Г. Калечыц; раскапана 380 м$^2$ плошчы. Культурны пласт 0,3—0,7 м. Выяўлены рэшткі 4 жытлаў і 5 гасп. ям, у будаўніцтве якіх выкарыстаны чарапы, буйныя плоскія і трубчастыя косці мамантаў і інш. жывёл. 1-е жытло размешчана ва ўсх. частцы паселішча, уяўляла сабой авал памерам 5,5×4,5 м, заглыблены ў мацярык на 0,5—0,6 м, на вонкавым краі якога размешчаны 13 чарапоў мамантаў, паміж імі прасочаны рэшткі сценак. У цэнтры жытла былі рэшткі адкрытага агнішча. 2-е жытло размяшчалася на ПдЗ ад 1-га, уяўляла сабой паўавал памерам 7,5×4 м (даследавана паўн. частка). Для пабудовы фундамента выкарыстана 10 чарапоў і больш за 40 трубчастых і плоскіх касцей мамантаў. 3-е жытло размяшчалася на ПдЗ ад 2-га, уяўляла падоўжаны авал памерам 11×5,5 м, сцены якога ўтваралі плоскія косці, пастаўленыя вертыкальна, і трубчастыя косці, пакладзеныя адна на адну гарызантальна або пастаўленыя вертыкальна. Падпоркамі для іх служылі чарапы мамантаў. У сярэдзіне жытла было адкрытае агнішча памерам 2×1,6 м. 4-е жытло размяшчалася на Пн ад 3-га, авальнай формы, памерам 8×4,5 м, было складзена пераважна пастаўленымі вертыкальна плоскімі касцямі маманта, а таксама спалучэннямі трубчастых касцей з чарапамі. Гасп. ямы дыяметрам 2,4—3 м, глыбінёй 0,6—0,8 м выкапаны ў мацерыку ніжэй дзённай страж. паверхні, абкладзены буйнымі касцямі мамантаў, зверху накрыты біўнямі. На паселішчы знойдзены крамянёвыя наканечнікі коп'яў з бакавой выемкай, бакавыя, сярэдзінныя і вуглавыя разцы, нажы касцёўкаўскага тыпу, нажы-кінжалы, скрабкі, пласцінкі з прытупленым рэтушшу краем, вастрыі тыпу гравет, рэтушоры, адбойнікі, нуклеусы, прылады сякерападобных форм і інш., а таксама пласціны з біўня маманта з геаметрычным арнаментам, характэрныя для помнікаў касцёнкаўска-вілендорфскай культуры. Узрост паселішча 27—25 тыс. гадоў. Абсалютнае датаванне; 1-е 23 430±180 і 2-е 24 000, помнік адносіцца да касцёнкаўска-вілендорфскай культуры.

Паселішча-1 Бердыж. Раскопкі 1928.

Фрагмент рэшткаў 3-га жытла з паселішча-1 Бердыж. Раскопкі 1938.

Паселішча-2 эпохі неаліту і бронзавага веку. За 500 м на Пн ад вёскі, ва ўрочышчы Кокаўня. Адкрыў у 1926 і абследаваў у 1954 Палікарповіч, абследавала ў 1978 Калечыц. Культурны пласт на дзюнападобным узвышшы ў агаленнях 0,15 м прасочаны на пл. 150 м$^2$. Знойдзены крамянёвыя нуклеусы, пласціны, адшчэпы, скрэблы, ромбападобны наканечнік стралы, фрагменты ляпной керамікі эпохі неаліту і бронзавага веку.

Курганны могільнік *радзімічаў* (10—13 ст.). За 100 м на З ад вёскі. Каля 50 насыпаў вышынёй 1—2,5 м, дыяметрам 6—9 м. Адкрыў у канцы 19 ст. Е. Р. Раманаў, абследавалі ў 1928 Палікарповіч, у 1976 М. А. Ткачоў. Палікарповіч ускрыў 3 курганы, у 2 выяўлена пахаванне на гарызонце, у адным — у падкурганнай яме.

*Літ.:* Поликарпович К. М. Палеолит Верхнего Поднепровья. Мн., 1968; Будько В. Д. О жилищах Бердыжской палеолитической стоянки // Краткие сообщения Ин-та археологии АН СССР. М., 1964. Вып. 101: Будько В. Д., Вознячук Л. Н. Палеолит Белоруссии и смежных территорий // Древности Белоруссии. Мн., 1969. *У. Дз. Будзько, М. А. Ткачоў.*

**БЕ́РЗІН** (Берзінь) Рэйнгольд Іосіфавіч [4(16).7.1888, маёнтак Кінігсгоф Ліфляндскай губ., цяпер Валмиерскі р-н у Латвіі — 11.11.1939], удзельнік барацьбы за Сав. ўладу на Беларусі, сав. ваен. дзеяч. З 1905 чл. РСДРП. З 1914 у арміі. У 1917 старшыня выканкома корпуса, таварыш старшыні выканкома 2-й арміі (Нясвіж), чл. ВРК Зах. фронту. Б. камандаваў 1-м Мінскім рэв. атрадам, пазней — 2-й рэв. арміяй у час ліквідацыі ў Магілёве Стаўкі Вярх. галоўнакамандуючага ўзбр. сіламі Расіі як цэнтра контррэвалюцыі, у барацьбе супраць Цэнтр. Рады на Украіне, у час разгрому антысав. мяцяжу 1-га польскага корпуса І. Р. Доўбар-Мусніцкага. У 1918 галоўнакамандуючы Зах. фронтам па барацьбе з контррэвалюцыяй, камандуючы Паўн.-Урала-Сібірскім фронтам. З 1919 чл. Рэўваенсавета Зах., Паўд.-Зах., Паўд., Туркестанскага франтоў, з 1924 — Зах. ваен. акругі. З 1927 на гасп. рабоце. Стаў ахвярай сталінскіх рэпрэсій. Рэабілітаваны пасмяротна.

**БЕ́РКАВЕЦ,** даўняя мера масы на Беларусі. Раўняўся 5 камяням ці 200 *фунтам* (74,96 кг).

**БЕ́РКМАН** Юзаф (4.8.1838, Валожын — 19.7.1919), удзельнік паўстання 1863—64, жывапісец. З сям'і ўрача. Скончыў гімназію ў Вільні. Вывучаў медыцыну ў Маскве, вучыўся на матэматычна-прыродазнаўчым ф-це Пецярбургскага ун-та, адначасова наведваў заняткі ў Пецярбургскай акадэміі мастацтваў. У кастр. 1861 за ўдзел у патрыят. маніфестацыі арыштаваны і на працягу 3 месяцаў зняволены ў Петрапаўлаўскую і Кранштацкую крэпасці. Пасля вызвалення выехаў у Вільню, дзе зблізіўся з братамі Далеўскімі, удзельнічаў у друкаванні і распаўсюджванні рэв. адозваў. З вер. 1862 працягваў вучобу ў Пецярбургу. З пачаткам паўстання 1863—64 у Польшчы, на Беларусі і ў Літве Б. вярнуўся на радзіму. Змагаўся са зброяй у руках на Ашмяншчыне, у т. л. ў атрадзе З. *Мінейкі*. 12.10.1863 у баі каля в. Рудзішкі паранены трапіў у палон. Засуджаны да 4 гадоў катаргі. Працаваў на сярэбраных капальнях у Нерчынску. За спробу ўцячы тэрмін пакарання падоўжаны яшчэ на 4 гады. З 1870 жыў у Іркуцку, дзе меў жывапісную майстэрню, у 1877 у Ніжнім Ноўгарадзе, з 1880 у Лібаве (Ліепая, Латвія), з 1884 у Варшаве, дзе і памёр. Пісаў пераважна сцэны паўстання і жыцця ссыльных паўстанцаў («Труна Серакоўскага», «Смерць Нарбута»). Гэтай жа тэматыцы прысвечаны серыі акварэляў (да Вял. Айч. вайны захоўваліся ў Львоўскай карціннай галерэі). Сярод работ жывапісныя карціны «Коннік з двума канямі», «Тройка» (абедзве 1877), «Чацвёрка» (1914; усе захоўваюцца ў Іркуцкім абл. мастацкім музеі).

**БЕ́РЛІНГ** (Berling) Зыгмунт (27.6.1896, г. Ліманова Кракаўскага ваяв. Польшчы — 11.7.1980), польскі военачальнік,

ген. броні Польшчы. Да 1939 у Войску Польскім. 22.6.1941 першым падпісаў пісьмо 13 афіцэраў б. польскай арміі сав. ўраду з просьбай даць магчымасць змагацца за сваю радзіму супраць фаш. Германіі Пасля эвакуацыі эмігранцкім польскім урадам з тэр. СССР сфарміраванай тут Польскай арміі (Андэрса) Б у ліку групы салдат і афіцэраў застаўся ў СССР У 1943—44 камандзір сфарміраванай у СССР польскай дывізіі імя Т. Касцюшкі, кіраваў яе дзеяннямі ў кастр. 1943 у баях пад в Леніна на Магілеўшчыне. Са жн. 1943 адначасова камандзір 1-га польскага корпуса, у сак.— кастр. 1944 камандуючы польскай арміяй у СССР, з ліп. 1944 — 1-й арміяй Войска Польскага, у ліп.— кастр нам. галоўнакамандуючага Войскам Польскім. У 1944—47 на вучобе ў Ваен. акадэміі Генштаба (Масква), у 1948—53 нач. Акадэміі Генштаба Войска Польскага.

**БЕРЛІ́НСКАЯ КАНФЕРЭ́НЦЫЯ 1925,** гл. *Другая Усебеларуская канферэнцыя.*

**БЕРМАН** Барыс Давыдавіч (1901—39), адзін з кіраўнікоў сталінскіх рэпрэсій на Беларусі ў час іх найвышэйшага размаху. Нарадзіўся ў Забайкаллі. З 1918 у Чырвонай Арміі, удзельнічаў у баях супраць войск атамана Г. М. Сяменава. З 1920 у органах дзярж. бяспекі Узначальваў аперацыі супраць басмачоў ва Узбекістане. У 1923 уступіў у РКП(б). У 1934—37 нам. нач замежнага аддзела Гал. ўпраўлення дзярж бяспекі НКУС СССР, быў у складзе следчай групы па падрыхтоўцы працэсу «аб'яднанага трацкісцка-зіноўеўскага блока» і «паралельнага антысавецкага трацкісцкага цэнтра». Пасля лютаўска-сакавіцкага (1937) Пленума ЦК ВКП(б) накіраваны на Беларусь, у сак. 1937 — маі 1938 нарком унутр. спраў БССР, камісар дзярж. бяспекі 3-га рангу Пры Б. на Беларусі было знішчана не менш як 100 тыс. чалавек, у т. л. старшыні ЦВК БССР А. Р. Чарвякоў, М. В. Стакун, старшыні СНК БССР М. М. Галадзед, Д. І. Валковіч, 1-ы сакратар ЦК КП(б)Б В. Ф. Шарановіч, камандуючы войскамі Бел. ваен. акругі Е. П Убарэвіч, вял. колькасць бел. творчай інтэлігенцыі. Распаўсюджваліся і заахвочваліся даносы, незаконныя арышты, катаванні, фальсіфікацыя крымінальных спраў, адпрацоўвалася тэхніка масавых расстрэлаў і захаванняў (гл. *Курапаты*). Ён быў абраны дэп. Вярх. Савета СССР, чл. ЦК КП(б)Б і ЦК ЛКСМБ, у снеж. 1937 узнаг. ордэнам Леніна З аслабленнем уплыву наркома ўнутр. спраў М. І. Яжова Б. заменены А. А. Наседкіным. 22.2.1939 прыгавораны да расстрэлу.

*Літ* Быстролетов Д. Как я умер Воспоминания // Кодры. 1989. № 6 С 112—115 *А Я Розумаў*

**БЕ́РМАН** Іван Андрэевіч (1830-я гады, Вільня — 16.1.1893), беларускі этнограф і краязнавец. Член Рус. геагр. т-ва. Скончыў Літоўскую духоўную семінарыю (1857). Служыў свяшчэннікам у Ашмянскім і Кобрынскім пав., з 1868 адначасова выкладаў у Марыінскім вышэйшым жаночым вучылішчы і інш. навуч. установах Вільні. Вывучаў бел. нар. абрады, прыкметы, вераванні, забабоны Удастоены бронзавага медаля Рус. геагр. т-ва (1867). Краязнаўчыя артыкулы і нататкі друкаваў у «Литовских епархиальных ведомостях», «Виленском вестнике», «Виленском календаре» Найб каштоўнасць маюць яго працы пра нар. каляндар і метэаралогію беларусаў, у якіх сабраны багаты фактычны матэрыял пра спосабы вылічэння часу і вызначэння надвор'я (серыя арт. «Парадак народнага часалічэння і святочныя звычаі ў Паўночна-Заходняй Русі», 1869; «Назіранні нашага паўночна-заходняга сялянства адносна надвор'я і ўраджаю», 1870, і інш.) Адзначаў элемент язычніцтва ў нар. святкаванні рэліг. свята.

*Тв.* Календарь по народным преданиям в Воложинском приходе Виленской губернии, Ошмянского уезда Спб, 1874, Чаровники и знахари западнорусского простонародья // Виленский вестник 1903 № 152, 158, 160, 164

*Літ* Бандарчык В К Гісторыя беларускай этнаграфіі XIX ст Мн, 1964; Васілевіч У А І А Берман (1830-я гг — 1893) // Беларуская фалькларыстыка· Збіранне і даслед нар творчасці ў 60-х гадах XIX — пачатку XX ст. Мн, 1989; Яго ж Іаан Берман // Васілевіч У А Збіральнікі. Мн, 1991.

*В К Бандарчык, У А Васілевіч*

**БЕРНАРДЗІ́НЦЫ,** манахі рэфармаванай галіны манаскага ордэна *францысканцаў* на Беларусі, у Літве і Польшчы. Б. прытрымліваліся першапачатковага, больш строгага статута Францыска Асізскага. Патрабаванні аб вяртанні да гэтага статута з'явіліся ў 13 — пач. 14 ст. У 1415 францысканскі прапаведнік Бернард Сіенскі звярнуўся да папы рымскага Марціна V з просьбай пацвердзіць першапачатковы статут Канстанцкі сабор 1415 задаволіў гэту просьбу. У 1430 на ген. капітуле ордэна францысканцаў-абсервантаў, пазней на тэр. Рэчы Паспалітай і паўднеславян. землях за імі замацавалася назва «бернардзінцы» (ад імя прапаведніка Бернарда Сіенскага). У 1431 пры папе Яўгену IV францысканцы-абсерванты атрымалі права ўвесці пасаду ген. вікарыя. Ім стаў Б. Сіенскі. Канчатковы разрыў Б. з ордэнам францысканцаў адбыўся ў 1517 пры папе Льву IX. Апраналіся Б. ў сутану цемнашэрага колеру з капюшонам, плашч, насілі пояс з белай воўны. На Беларусь Б. прыйшлі з Польшчы. Галоўнай мэтай Б. на Беларусі былі місіянерская праца сярод праваслаўнага насельніцтва і пастырская дзейнасць. У 1467 быў створаны польскі вікарыят, а на яго аснове ў 1517 — Польская правінцыя, з якой у 1530 вылучалася Літоўская правінцыя (у 1570 зноў аб'яднана з Польскай). У 1628 Польская правінцыя падзелена на Вялікапольскую, Малапольскую, Рус. і Літоўскую, а ў 1630 Малапольская, Рус. і Літоўская правінцыі аб'яднаны ў Польскую (Малапольска-Літоўскую) правінцыю. З апошняй у 1637 вылучылася Рус. правінцыя, а ў 1731 — Літоўская. Манашкі-бернардзінкі першапачаткова сяліліся пры мужчынскіх кляштарах ордэна і не прымалі абавязку сталага жыхарства пры кляштары (кляўзуру). У 1566 папа Пій V абавязаў іх прыняць кляўзуру і 3 манаскія абавязкі На Беларусі дзейнічалі 4 жаночыя кляштары Б у Берасці (1624—1831, фундатар Гелена Копцава з роду Дульскіх), Гродне (каля 1618—1853, фундатар Геранім Валовіч, староста жмудскі), Менску [1630—1866, фундатар Аляксандр Служка (Слушка), ваявода трокскі], Слоніме (1645—1907, фундатар Канстанцыя Юдзіцкая-Салатыцкая). Мужчынскіх кляштараў Б. было значна больш: у Беніцы (1700—1852, фундатар Казімір Коцел, кашталян трокскі), Беразіне (1682—1832, фундатар Канстанты Уладзіслаў Пац, надворны харунжы літоўскі), Будславе (1504—1858, фундатары Аляксандр Ягелончык, вял князь ВКЛ, і Януш Кішка, гетман літ. і ваявода полацкі), Гродне (1494—1853, фундатар Аляксандр Ягелончык), Берасці (1605—1830, фундатар Мартын Шышкоўскі, біскуп луцкі), Віцебску (1676—1832, фундатар Ян Антоній Храпавіцкі, ваявода віцебскі), Валожыне (1683—1860, фундатар Юзаф Багуслаў Служка, гетман польны літоўскі, кашталян віленскі), Глуску (1662—1832, фундатар Аляксандр Гілярый Палубінскі, маршалак літоўскі), Друі (1646—1850, фундатар Казімір Леў Сапега, падканцлер ВКЛ), Іўі (1631—1858, фундатар Мікалай Кішка, ваявода мсціслаўскі), Магілеве (1696—1864, фундатар Тэадор Жавускі, лоўчы рэчыцкі), Мазыры (1645—1832, фундатар Міхаіл Лонка, маршалак мазырскі), Менску (1624—1868, фундатар Андрэй Кянсоўскі, староста краснасельскі), Мікуліне (1704—1832, фундатар Марцыян Міхал Агінскі, кашталян віцебскі, і яго жонка Тэрэза з роду Бжастоўскіх), Мсціславе (1729—1832, фундатар Ян Юзаф Рамейка-Гурка, харунжы віцебскі, і яго жонка Хрысціна з роду Галынскіх), Нясвіжы (1598—1864, фундатар жонка Мікалая Радзівіла Сіроткі Гальшка Яўфімія з роду Вішнявецкіх), Оршы (1631—1832, фундатар Андрэй Млоцкі, староста хелмскі, і яго жонка Хрысціна з роду Масальскіх), Пінску (1705—1832, фундатар Міхаіл Вішнявецкі, гетман ВКЛ, і яго жонка Кацярына з роду Дольскіх), Полацку (1498—1563, фундатар Аляксандр Ягелончык, 1696—1832, фундатар Дамінік Служка, ваявода полацкі), Селішчы (1729—1832, фундатары Іасафат Антоній Сялява, падсудак полацкі, і Ян Язэп Рагоза, падчашнік і ротмістр полацкі), Слоніме (1630—1864, фундатары Ян Жарноўскі і Андрэй Радван), Слуцку (1661—1832, фундатар Самуэль Аскерка, земскі мазырскі, палк. каралеўскіх войск), Юрэвічах (1800—1828/29, біскуп менскі Якуб Дзядзерка перадаў ордэну былы езуіцкі кляштар). Пры кляштарах Б. дзейнічалі школы (у т. л. ў Будслаўскім кляштары з 1756

музычная школа), амаль кожны кляштар меў б-ку; берасцейскія Б. трымалі аптэку.

Пасля далучэння Беларусі да Рас. імперыі ўплыў Б. паступова змяншаўся, амаль усе іх кляштары спынілі дзейнасць у 1860-я гады.

*Літ*: Zakony męskie w Polsce w 1772 roku. Lublin, 1972 (Materiały do Atlasu historycznego chrześcijanstwa w Polsce T 1), Kantak K Bernardyni polscy T 1—2. Lwow, 1933 *Л А Карнілава*

**БЕРНАРДО́НІ** (Bernardoni, Bernardonus) Джавані (Ян) Марыя [1541(?), г. Кома, Італія — 1605], італьянскі архітэктар. Прадстаўнік барока. Працаваў на Беларусі і ў Польшчы. У 1588—99 па запрашэнні М. Радзівіла Сіроткі працаваў у Нясвіжы Удзельнічаў у першым этапе будаўніцтва Нясвіжскага палацава-замкавага комплексу, збудаваў комплекс Нясвіжскага касцела езуітаў і калегіума (абодва 1582—93 ці 1598).

**БЕРНШТЭ́ЙН** Іосіф Гдалевіч (17.7. 1904, г. Пінск — 16.2.1966), удзельнік рэв. і нац.-вызваленчага руху ў Зах. Беларусі. Скончыў Мінскую нелегальную партшколу КПЗБ (1931) У 1921—24 рабочы запалкавай ф-кі ў Пінску. Быў сакратаром ячэйкі, членам Пінскага гаркома КСМЗБ. Удзельнічаў у арганізацыі забастовак працоўных Пінска, узначальваў работу прафсаюзаў горада. У 1927—30 чл. Пінскіх гаркома і акругкома КПЗБ, з 1931 — інструктар ЦК КПЗБ па Беластоцкай і Віленскай акр., у Мінскай партшколе КПЗБ. У пач. 1934 сакратар Віленскага акругкома КПЗБ. За рэв. дзейнасць неаднаразова быў арыштаваны польскімі ўладамі, больш за 10 гадоў правеў у турмах. У час вызвалення Зах. Беларусі Чырв. Арміяй у вер. 1939 стварыў атрады рабочай гвардыі ў Вільні, Пінску. У Вял. Айч. вайну працаваў у МОПРы Узбекістана. У 1944—52 на гасп. рабоце ў Пінску.

*Тв* Выбары ў польскі сейм у Пінску // У суровыя гады падполля. Мн., 1958 *В П Ласковіч*

**БЕ́РСАН** Станіслаў Ігнатавіч (1895, Варшава — 21.4.1919), удзельнік барацьбы за Сав. уладу на Беларусі. У 1-ю сусв вайну шафер аўтамабільнай каманды ў штабе Зах. фронту, які размяшчаўся ў Мінску. Адзін з кіраўнікоў Мінскай і Смаленскай арг-цый СДКПіЛ, чл. праўлення Польскага сацыяліст. аб'яднання. Пасля Лют. рэвалюцыі 1917 стаяў на пазіцыях меншавікоў-інтэрнацыяналістаў, з кастр. 1917 — бальшавікоў. З мая 1917 чл., нам. старшыні *Мінскага Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў.* Камісар ВРК Зах. фронту, чл. дэлегацыі па падпісанні 21.11(4.12).1917 у мяст. Солы Ашмянскага пав. дагавора аб перамір'і на Зах. фронце паміж рус. і ням. арміямі. З 2(15).12.1917 камісар па справах нацыянальнасцей СНК Зах. вобласці і фронту. Стваральнік і рэдактар польскай сацыяліст. газеты «Prawda» («Праўда»), потым «Polska prawda» («Польская праўда»). Арганізоўваў з палякаў-бежанцаў і мясц. жыхароў польскія рэв. батальены. З чэрв. 1918 у выканкоме Саветаў Зах. вобласці (з вер. 1918 Зах. Камуны) у Смаленску. З 1.1.1919 нарком дзяржкантролю 1-га ўрада БССР, з лют. 1919 — Літоўска-Беларускай ССР. Арыштаваны польскімі акупантамі на чыг. ст. Нова-Вілейка. Расстраляны ў мяст. Рудаміна. *А. І Марозава*

**БЕ́РТЭЛЬ** Аляксандр Сцяпанавіч (1902, былая в. Вялікія Кавалічы, Гродзенскі р-н — 20.9.1939), удзельнік рэв. і нац.-вызваленчага руху ў Зах. Беларусі. Чл. КПЗБ з 1932. З 1934 рабочы ў Гродне. За рэв. дзейнасць неаднаразова праследаваўся ўладамі Польшчы. У вер. 1939 арганізаваў узбр. атрад рабочых для дапамогі Чырв. Арміі, якая пачала вызваленне Зах. Беларусі. Атрад патруляваў па вуліцах горада, раззбройваў і арыштоўваў паліцэйскіх, імкнуўся не дапусціць дыверсій. У ноч на 20 вер. правакатары акружылі і падпалілі дом Б., у якім загінулі ен і яго дачка. У Гродне яго імем названа вуліца і ўстаноўлены мемарыяльны знак.

**БЕ́РШТЫ,** веска ў Шчучынскім р-не на р. Котра і паўд. беразе воз. Берштаўскае. Цэнтр сельсавета. За 44 км на ПнЗ ад Шчучына, 21 км ад чыг. ст. Парэчча. 347 двароў, 643 ж. (1991).

Б. вядомы з 15 ст. (упершыню ўпамінаюцца пад 1460). У 15—16 ст. тут быў двор вял. князёў ВКЛ, у 1496 адбыўся сойм ВКЛ. З 1795 Б. ў складзе Рас. імперыі. У 19 — пач. 20 ст. мястэчка, цэнтр воласці Гродзенскага пав. 117 двароў, 936 ж., нар. вучылішча, фельчарскі пункт (1886); у 1905 1470 ж У час 1-й сусв. вайны Б. акупіраваны герм. войскамі. У ліп.— вер. 1920 улада ў Б. належала бальшавіцкаму ВРК. З 1921 веска ў Зах. Беларусі ў складзе Польшчы, з 1939— у БССР. З 12.10.1940 цэнтр сельсавета Парэцкага, з 12.11.1940 Скідзельскага р-наў Беластоцкай вобл. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1941 веска акупіравана ням.-фаш. войскамі, вызвалена ў ліп. 1944 у ходзе Бел. аперацыі. З 25.12.1962 у Гродзенскім, у 1964—67 у Шчучынскім р-нах. У 1970 у весцы 387 ж., 140 двароў. У Б. дапаможная гаспадарка вытв. аб'яднання «Хваля» (Гродна), смолзавод «Берштьі», няпоўная сярэдняя школа, Дом культуры, бальніца, магазін. У весцы магіла партызана В. В. Аляксандрава, помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. Захаваўся помнік архітэктуры пач. 19 ст.— царква У цэнтры вескі стаянка неманскай культуры.

**БЕ́СКІН** Ізраіль Саламонавіч [13(25). 11.1895, Віцебск — 19.1.1964], ген.-лейт. артылерыі (1944). Герой Сав. Саюза (1945). У арміі з 1915, у Чырв. Арміі з 1918. Скончыў Маскоўскія курсы цяжкай артылерыі РСЧА (1920), Вышэйшую артыл. школу (1925), Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1936). У грамадз. вайну ўдзельнік ліквідацыі мяцяжоў у Віцебскай і Смаленскай губ., вызвалення ад японскіх акупантаў Хабараўска, Спаска, Валачаеўкі, Уладзівастока ў 1922, баеў на Кітайска-Усх. чыгунцы ў 1929, сав.-фінляндскай вайны 1939—40. У Вял. Айч. вайну ўдзельнік баеў пад Сталінградам, вызвалення Гомеля, Рэчыцы, Калінкавіч, Бабруйска, фарсіравання Дзясны, Сажа, Дняпра, Одэра. Камандуючы артылерыяй 70-й арміі 1-га Бел. фронту Б. вызначыўся ў час прарыву абароны ворага на Одэры каля Шчэціна. У 1950 скончыў Вышэйшыя акад. курсы. Да 1953 у Сав. Арміі.

**БЕСПАРТЫ́ЙНЫ БЛОК СУПРАЦО́ЎНІЦТВА З УРА́ДАМ,** ББ, палітычная групоўка ў Польшчы ў 1928—35, якая аб'ядноўвала прыхільнікаў дыктатуры Ю. Пілсудскага: прадстаўнікоў былых легіенаў, згодніцкіх сял. партый, правых з нац. меншасцей, кансерватыўныя і рэфармісцкія групоўкі, што выйшлі з ППС, Нац. рабочай партыі і інш. Утвораны напярэдадні выбараў у Польскі сейм у 1928. Гал. арганізатар і старшыня В. Славек. Праграма ББ абвяшчала ўзмацненне выканаўчай улады, давала прэзідэнту самастойнасць і незалежнасць ад заканадаўчых палат. Адыгрываў пэўную ролю ў працэсе фашызацыі краіны. На выбарах у 1928 атрымаў 27,6 %, у 1930, дзякуючы націску адміністрацыі і фальсіфікацыі вынікаў галасавання,— 55,6 % месцаў у сейме. У Зах. Беларусі ў 1930 за ББ галасавала 30,2 % выбаршчыкаў. З'яўляўся самай шматлікай групоўкай у сейме. Пасля смерці Пілсудскага (1935) разыходжанні ўнутры ББ прывялі да яго крызісу і роспуску. Вынікам новых спроб згуртаваць нацыяналіст. сілы вакол рэжыму *санацыі* стала ўтварэнне ў 1937 Лагера нац. аб'яднання

*Літ* Революционный путь Компартии Западной Белоруссии (1921—1939 гг) Мн, 1966, Полуян В А Революционно-демократическое движение в Западной Белоруссии (1927—1939 гг) Мн., 1978; Kowalski J. Trudne lata Problemy rozwoju polskiego ruchu robotniczego 1929—1935. Warszawa, 1966 *У А Палуян*

**БЕСПРАЦО́ЎЕ,** наяўнасць у грамадстве працаздольных людзей працаздольнага ўзросту, якія па незалежных ад іх прычынах не маюць работы і заработку (працоўнага даходу). Беспрацоўнымі лічацца асобы, зарэгістраваныя ў дзярж службе занятасці. Паводле форм Б. падзяляюць на цякучае, скрытае (аграрнае) і застойнае. У дарэв. Беларусі Б. з'явілася вынікам капіталіст. рацыяналізацыі вытв-сці. Найб. пашырана было скрытае Б. (гл. *Перанаселенасць аграрная).* У пач. 1890-х гадоў у сельскай гаспадарцы (5 зах. губерняў Расійскай імперыі) налічвалася больш за 1 млн. «лішніх» адносна мясц. попыту сялян. Лішак свабодных рук абумовіў тое, што плата с.-г. рабочым у канцы 19 ст. тут была на 16—23 % ніжэйшая, чым па Еўрап. Расіі ў цэлым. Таму Беларусь стала буйным пастаўшчыком таннай рабочай сілы на ўсерас. рынку на пач. 20 ст. штогод адыходзіла на заработкі каля 300 тыс. чал. (гл. *Адыходніцтва).* Пра скрытае Б. сведчылі таксама перасяленне ў Сібір, на Д. Усход, эміграцыя ў Амерыку і Зах. Еўропу. У 1896—1915 з агульнай колькасці перасяленцаў з

Нечарназёмнай зоны Расіі ў Сібір і на Д. Усход 85 % прыпадала на Беларусь. За 50 гадоў перад 1-й сусв. вайной у пошуках работы радзіму пакінула каля 1400 тыс. беларусаў. У адрозненне ад унутраных губерняў Расіі перанаселенасць на Беларусі ахапіла не толькі вёску, але і горад. У 1880—90-я гады ўзнялася першая хваля Б. рамеснікаў (пераважна сярод чаляднікаў і вучняў). Адной з прычын гэтага было тое, што царскі ўрад уключыў Беларусь (разам з Украінай і Літвой) *у мяжу яўрэйскай аселасці*, а з 1882 забараняў яўрэям сяліцца па-за гарадамі і мястэчкамі. Яўрэйскія сем'і сілай высялялі з рус. губерняў і бел. вёсак ў гарады, якія не маглі забяспечыць людзей працай. Гэта дало штуршок яўр. эміграцыі. У часы прамысловага крызісу 1900—03 Б. пачалося і сярод фабрычных рабочых і дасягнула 19 % іх агульнай колькасці. Урад быў вымушаны ў жн. 1904 выдаць закон, які дазваляў яўрэям-рамеснікам сяліцца і па-за межамі горада (мястэчка), аднак нічога не зрабіў для развіцця ў гар. паселішчах Беларусі буйной прамысловасці. У гады рэвалюцыі 1905—07 для барацьбы з рабочым рухам прадпрымальнікі выкарыстоўвалі *лакаўты*, у выніку беспрацоўнымі станавіліся тысячы рабочых. Калі дапусціць, што ў кожным з 58 гарадоў Беларусі ў 1906 налічвалася, як у Магілёве, не менш як 500 беспрацоўных, то іх агульная лічба склала прыкладна 30 тыс. чал., ці 2,5 % гараджан. У мястэчках гэты паказчык быў крыху большы — каля 3 %. У канцы 1-й сусв. вайны Б. ахапіла гарады і мястэчкі ўсх. Беларусі, якія поўніліся *бежанцамі*. Многія прамысл. прадпрыемствы з-за нястачы паліва і сыравіны доўга прастойвалі або зусім закрываліся.

Грамадз. вайна і ваен. інтэрвенцыя ўшчэнт разбурылі гаспадарку Беларусі. У 1921 у БССР афіцыйна зарэгістравана 7,8 тыс. беспрацоўных, у жн. 1924—25,9 тыс.; з далучэннем Гомельскага і Рэчыцкага пав. (1926) іх колькасць павялічылася і, нягледзячы на аднаўленне прам-сці, у 1928 дасягнула 64,4 тыс. чал. У 1927 беспрацоўныя кваліфікаваных прафесій складалі 22 %, паўкваліфікаваных — 16 %, некваліфікаваных — 62 %. Асн. прычынай Б. была аграрная перанаселенасць: да 40 % працаздольнага насельніцтва вёскі, не маючы працы, вымушана было шукаць яе ў горадзе. Значную частку беспрацоўных складалі жанчыны і падлеткі. Улік беспрацоўных і наяўнасці свабодных працоўных месцаў на Беларусі з 1918 вялі біржы працы. Па ініцыятыве прафсаюзаў з 1921 для беспрацоўных ствараліся працоўныя калектывы, для дзейнасці якіх дзяржава выдзяляла сродкі (у 1927/28 прац. калектывам выплачана 4,3 млн. руб.), памяшканні, забяспечвала сыравінай. Першыя 6 месяцаў яны вызваляліся ад падаткаў. Сярэднямесячны заработак там складаў каля 57 руб., што было не намнога менш, чым у рабочых на дзярж. прадпрыемствах. Каб дапамагчы большай колькасці беспрацоўных, кожныя 3 месяцы праводзілася замена рабочых. Адной з форм

І. С. Бескін.

дапамогі беспрацоўным з 1922 былі грамадскія работы — добраўпарадкаванне вуліц, земляныя работы. У 1927/28 на грамадскія работы выдаткавана 983,3 тыс. руб. Замена працуючых праводзілася кожныя 60—70 дзён; сярэдні заработак складаў каля 1,5 руб. ў дзень. Выдача грашовай дапамогі па Б. пачалася з канца 1921. Яе аб'ём у 1923/24 складаў 210 тыс. руб., у 1926/27—1,6 млн. руб. У 1923 яе атрымлівалі 20,4 % усіх беспрацоўных, а ў 1927—47,7 %. Памер дапамогі ў 1926 складаў 13 руб. у месяц (павялічваўся на 15—35 % у залежнасці ад колькасці ўтрыманцаў), а яе працягласць — 9 месяцаў у год на працягу не больш як 2 гадоў. З 1919 на сродкі прафсаюзаў (а пазней біржаў працы) была наладжана выдача бясплатных або льготных талонаў на абед. Сталовыя для беспрацоўных былі адкрыты ў большасці буйных гарадоў Беларусі. У 1926/27 штодзень у іх выдавалася каля 2 тыс. абедаў. Беспрацоўныя мелі права льготнага праезду па чыгунцы да месцаў працы, абучэння і перааўчэння; адзінокіх уладкоўвалі ў начлежныя дамы. Праводзілася таксама бранíраванне рабочых месцаў для падлеткаў, на 1.1.1928 у прам-сці ВСНГ БССР было забраніравана 1,4 тыс. месцаў. Усяго ў 1926/27 на дапамогу па Б. было выдаткавана 3,4 млн. руб. У 1926 у Мінску адкрыты курсы Цэнтр. ін-та працы для прафесійнай падрыхтоўкі беспрацоўных. Большасць навучэнцаў прафесійных школ, школ ФЗН, навучальна-практычных майстэрняў набіраліся з беспрацоўных. У сувязі з распачатай *індустрыялізацыяй* краіны, якая патрабавала дзесяткі тысяч новых рабочых, колькасць беспрацоўных, зарэгістраваных на біржах Беларусі, пачала хутка скарачацца: з 30,1 тыс. ў 1929 да 10,7 тыс. чал. у 1930. Да канца 1931 Б. на Беларусі ліквідавана. У Зах. Беларусі агульная колькасць беспрацоўных у 1936 складала каля 25 тыс. чал.

Пераход да рыначных адносін, разрыў эканам. сувязей паміж прадпрыемствамі былога СССР прывялі ў пач. 1990-х гадоў да спаду вытв-сці, масавых звальненняў і ўзнікнення Б. У чэрв. 1991 Вярх. Савет БССР прыняў закон «Аб занятасці насельніцтва Беларускай ССР», у адпаведнасці з якім створана спец. служба занятасці. У яе складзе 162 рэгіянальныя цэнтры занятасці, рэсп. навуч. метадычны цэнтр «Алгарытм» па перааўчэнні незанятага насельніцтва. За 1992 у цэнтры занятасці звярнулася 173,7 тыс. чал., з іх працаўладкавана 43 %. Беспрацоўных зарэгістравана 24 тыс. чал., з іх 19,9 тыс. атрымалі грашовую дапамогу.

*Літ.*: Ходский Л. В. Земля и земледелец: Экон. и стат. исслед. Т. 1—2. Спб., 1891; Свод статистических материалов, касающихся экономического положения сельского населения Европейской России. Спб., 1894; История рабочего класса Белорусской ССР. Т. 1—4. Мн., 1984—87.

*У. І. Вышынскі, З. В. Шыбека, У. А. Палуян.*

**БЕ́ХЦЕР**, від засцерагальнага баявога адзення на Беларусі ў 16—17 ст. Меў выгляд нагруднага даспеха, які набіраўся з размешчаных вертыкальнымі радамі прадаўгаватых металічных пласцін, злучаных кольцамі з 2 кароткіх краёў. Да Б. нарошчваўся кальчужны падол, зрэдку — такія ж каўнер і рукавы. Маса Б. дасягала 10—12 кг, даўжыня 66 см. Такі тып даспеха меў вельмі высокія засцерагальныя якасці, у т. л. і супраць агністрэльнай зброі на раннім этапе яе развіцця. У бел. пісьмовых крыніцах згадваюцца «простыя бехцеры» і «бехцеры пазлацістыя» (менавіта такі пазычыў у чачэрскага і прапойскага старосты Юрыя Зяноўевіча ў 1565 камянецкі падкаморы Еранім Сіняўскі). Б. выраблялі мясц. рамеснікі.

*Літ.*: Кирпичников А. Н. Военное дело на Руси в XIII—XV вв. Л., 1976. С. 38—39; Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах. Мн., 1936. Т. 1. С. 286.

*М. А. Ткачоў.*

**БЕ́ЧЫ**, гарадзішча балотнага тыпу мілаградскай і зарубінецкай культур каля в. Бечы Жыткавіцкага р-на. За 1 км на Пд ад вёскі, на правым беразе р. Сцвіга, у лясным урочышчы Гарадзец. Пл. 9,5 га; самае вялікае гарадзішча на Беларусі. Падзелена валам (вышыня 1—2 м, шырыня 10—12 м, у зах. частцы разбураны) на зах. (2,6 га) і ўсх. (6,8 га) пляцоўкі, умацаваныя агульным валам даўжынёй 1,41 км. З паўн.-зах. і паўд. бакоў на пляцоўках прасочваюцца сляды ўваходаў. Вядома з канца 19 ст., абследавалі ў 1928 А. Дз. Каваленя, С. С. Шутаў, у 1961 і 1974 Л. Д. Побаль. Культурны пласт 0,1—0,2 м, слаба выражаны. Выяўлены фрагменты посуду жал. веку, рэшткі грубай ляпной керамікі. Гарадзішча не было заселена чалавекам і, верагодна, з'яўлялася сховішчам жыхароў навакольных паселішчаў.

*Літ.*: Поболь Л. Д. Древности Туровщины. Мн., 1969; Яго ж. Славянские древности Белоруссии: (свод археологических памятников раннего этапа зарубинецкой культуры — с середины III в. до н. э. по начало II в. н. э.). Мн., 1974. *Л. Д. Побаль.*

**БЕШАНКО́ВІЦКАЕ ВЫСТУПЛЕ́ННЕ РАМЕ́СНІКАЎ І СЯЛЯ́Н 1821—22.**

Адбылося як пратэст супраць шматгадовага прыгнету з боку ўладальніка мяст. Бешанковічы і прылеглых весак графа І. Храптовіча. Паводле яго загаду пад пляцы для будоўляў было разбурана каля 100 двароў рамеснікаў і сялян, адабраны іх землі, яны самі абкладзены непасільнымі падаткамі і павіннасцямі, уведзены штодзенны прыгон, а графскія староста і аканом лупцавалі людзей. Не знайшоўшы паратунку ў бел. ваеннага і віцебскага цывільнага губернатараў, рамеснікі і сяляне ў вер. 1821 падалі петыцыю цару Аляксандру I, у якой сцвярджалі, што паводле прывілея 1634, дадзенага Бешанковічам у часы ВКЛ польскім каралём Уладзіславам IV, жыхары мястэчка не аддаваліся Храптовічам у прыгон. Бунтаўшчыкі выбралі раду на чале з адстаўным паручнікам Б. Ступіным. Даведаўшыся пра петыцыю, граф таксама напісаў цару скаргу, што яго прыгонныя выйшлі з падпарадкавання, адмовіліся ад выканання ўсіх павіннасцей, паказваюць буянства і дзерзкасць. У выніку лепельскі пав. земскі суд атрымаў прадпісанне губ. начальства прывесці бунтаўшчыкоў у поўнае падпарадкаванне графу, а зачыншчыкаў аддаць пад суд. У Бешанковічы выехала камісія на чале з судовым спраўнікам Рылевічам. Але 730 бунтаўшчыкоў нават пад пагрозай экзекуцыі адхілілі ўсе заклікі камісіі падпарадкавацца графу і выконваць павіннасці. З работ у маёнтку былі зняты ўсе прыгонныя. Палцыя арыштавала 9 кіраўнікоў і актыўных удзельнікаў выступлення. Дом, дзе іх трымалі, акружылі больш за 200 месцачкоўцаў і сялян на чале з К. Станкевічам, і пад іх націскам паліцыя адпусціла арыштаваных. Ад прапанаванай графам харчовай дапамогі бунтаўшчыкі адмовіліся. Паводле прадпісання губернатара ў Бешанковічы прыбыў калежскі асэсар Мазурын, які разам з судовым спраўнікам угаворваў мяшчан і сялян выконваць павіннасці паводле інвентара, але тыя зноў адмовіліся. Выкліканая ваен. каманда арыштавала 4 кіраўнікоў і пад канвоем павяла іх у Лепель. Але ў выніку сутычкі паміж салдатамі і мяшчанамі арыштаваных адбілі. У Бешанковічы прыехаў сам губернатар, які загадаў самых непакорных аддаць пад суд. Павятовы суд, што адбыўся восенню 1822, стаў на абарону графа, не звярнуў увагі на шматлікія важкія доказы падсудных. 18 мяшчан і сялян прыгавораны да цялесных пакаранняў Самыя актыўныя кіраўнікі выступлення І. Глевіч, Я. Кісевіч, Л. Берасцень і Г. Журко засуджаны на пажыццёвую катаргу ў Табольскім астрозе.

*Літ.:* Белоруссия в эпоху феодализма Сб. документов и материалов Мн., 1979. Т. 4. С 199—208, Крачкоўскі А В Край наш Наддзвінскі. Мн., 1990; Памяць Гіст.-дакум. хроніка Бешанковіцкага р-на Мн, 1991. *А І Марозава*

**БЕШАНКО́ВІЦКАЯ РАБО́ЧАЯ АРГАНІЗА́ЦЫЯ 1899—1900.** Аб'ядноўвала рамесных рабочых — членаў стачачнай касы. Прытрымлівалася с-д. кірунку. Тлумачыла рабочым неабходнасць згуртавання з мэтай барацьбы за скарачэнне рабочага дня і павышэнне заработнай платы. Збірала ўзносы ў стачачную касу. З дапамогай *Віцебскага сацыял-дэмакратычнага камітэта Бунда* стварыла падп бібліятэку, сістэматычна наладжвала сходы рабочых, на якіх чыталася нелегальная л-ра. У 1899 арганізавала стачкі краўцоў і шаўцоў з патрабаваннямі скараціць рабочы дзень да ўстаноўленых законам 12 гадзін (з 2-гадзінным перапынкам) і павысіць плату, у 1900 — стачку ў 2 шавецкіх майстэрнях. У барацьбе са штрэйкбрэхерамі выкарыстоўвала тэрарыст. сродкі, у сувязі з чым 7 членаў арг-цыі ў 1900 арыштаваны.

*Літ* Бич М О. Рабочее движеиие в Белоруссии в 1861—1904 гг Мн, 1983 С 132 *М В Біч*

**БЕШАНКО́ВІЦКІ ГІСТО́РЫКА-КРАЯЗНА́ЎЧЫ МУЗЕ́Й.** Заснаваны ў г. Бешанковічы ў 1977 як музей баявой славы, адкрыты для наведвальнікаў у 1979, з 1987 гісторыка-краязнаўчы музей Мае 8 экспазіцыйных залаў (пл 311 $м^2$), каля 7 тыс. экспанатаў асн фонду (1993). Раздзелы экспазіцыі гіст. мінулае раена, Бешанковіцкі край у перыяд Кастр. падзей 1917, станаўленне Сав. улады ў Прыдзвінні; падзеі грамадз. вайны, калектывізацыя; Вял. Айч. вайна; аднаўленне разбуранай акупантамі гаспадаркі; пасляваен. развіцце раена. У музеі экспануецца каля 120 прадметаў археалогіі касцяныя наканечнікі стрэл, каменныя і рагавыя сякеры, каменная шліфаваная пліта, падвескі з бурштыну і іклаў жывел, бівень маманта, фрагменты гліняных гаршкоў з раскопак на тэр. раена (курганныя могільнікі Давыдкавічы, Крупеніна, стаянкі *Асавец*). Дэманструюцца таксама карты археал. помнікаў раена, стаянак Крывінскага тарфяніку, фотаздымкі стаянак, раскопак, знаходак, нумізматычная калекцыя. Асн. месца ў музеі займае раздзел Вял. Айч. вайны, экспанаты якога расказваюць пра баявыя баі летам 1941 на тэр. Бешанковіцкага р-на, стварэнне і дзейнасць падп. антыфаш. арг-цый, зараджэнне і развіцце партыз. руху ў раене, пра вызваленне раена ў 1944. Сярод экспанатаў — дакументы, фотаздымкі, асабістыя рэчы ўраджэнцаў раена, якія змагаліся на франтах і ў партыз. атрадах, арганізатараў і кіраўнікоў партыз. брыгады «За Савецкую Беларусь», карта яе баявых дзеянняў. Адзін з раздзелаў экспазіцыі прысвечаны аперацыі «Баграціен», часцям Чырвонай Арміі, што вызвалялі раен і г. п. Бешанковічы ад ням.-фаш. захопнікаў. Матэрыялы музея расказваюць пра военачальнікаў І. М Чысцякова, А. П. Белабародава, І. І Люднікава, генералаў Л. М. Даватара, С. І Воранава, В. А. Зароўскага, А М. Нікалаевіча, Героя Сав. Саюза М І. Макарычава У экспазіцыі творы жывапісу, графікі, скульптуры, у т. л. дыярама А. В. Гарбунова «Бітва пад Астроўнам», карціны В. Е Ціханенкі «Кірмаш у Бешанковічах», М. Ф. Глушко «Паветраны бой А А Абазоўскага». Перад будынкам музея ўстаноўлены бюсты Герояў Сав Саюза — землякоў Даватара, Абазоўскага, П. М. Раманава, М. М. Ткачука (скульптар А. Н. Тарасян).

*А. В Крачкоўскі*

**БЕШАНКО́ВІЦКІ КІРМА́Ш**, штогадовы кірмаш у мяст *Бешанковічы* ў 17—19 ст Пачынаўся 29 чэрв (у дзень святых Пятра і Паўла, адсюль назва — Петрапаўлаўскі) і працягваўся 4 тыдні Адбываўся на вял. плошчы ў цэнтры мястэчка, дзе ў 2-й пал. 18 ст. пабудаваны гасціны двор (60 крам, пазней іх колькасць павялічылася ўдвая) На кірмаш з'язджалася 4—5 тыс чал. гандляры, сяляне, шляхта з Наддзвіння, Падняпроўя, Мінска, Брэста, Слуцка, Слоніма, Вільні, купцы з Расіі і інш дзяржаў. Асаблівa вял значэнне кірмаш набыў з канца 18 ст., у сярэдзіне 19 ст. ен уваходзіў у лік 124 найбуйнейшых (гандлевы абарот 50—100 тыс. руб.) кірмашоў Расійскай імперыі. З Масквы, Уладзіміра і інш гарадоў Расіі на Б.к. прывозілі шарсцяныя, баваўняныя, шаўковыя і льняныя тканіны, адзенне, абутак. Прадаваліся фарфоравы, фаянсавы, хрустальны посуд, мыла, папера, металічныя вырабы (самавары, чайнікі, прасы, нажы, нажніцы, замкі, падсвечнікі), цукар, агароднiна. Адбываўся гандаль коньмі (часам іх прыганялі да 1 тыс. галоў). З замежных тавараў можна было набыць французскія хусткі, доўгія шалі, белы цік, каву, чай, прадметы раскошы і інш У 1830-я гады на кірмаш штогод дастаўлялі тавару ў сярэднім на 190 тыс. руб., рэалізоўвалі на 53 тыс (28 %), у 1840-я гады адпаведна на 478 і 166 тыс (35 %), у 1850-я гады — на *552* і 208 тыс (38 %)

*Літ* Живописная Россия Спб, М, 1882 Т 3, ч 2 С 389; Крачкоўскі А В Край наш Наддзвінскі Мн, 1990. С 8. *В В Швед*

**БЕШАНКО́ВІЦКІ РАЁН.** У цэнтры Віцебскай вобл., пл. 1,4 тыс. $км^2$. Утвораны 17.7.1924 у складзе *Віцебскай акругі* (да 26.7.1930). Цэнтр — г. п *Бешанковічы*. У складзе раена г п. *Ула*, 10 сельсаветаў (Астровенскі, Бачэйкаўскі, Верхнякрывінскі, Вярхоўскі, Драздоўскі, Пліскі, Рубежскі, Свячанскі, Сокараўскі, Соржыцкі), 250 сельскіх населеных пунктаў (1993). Займае Пн Чашніцкай раўніны, Пд Полацкай нізіны, адгор'і Гарадоцкага ўзвышша. Па тэр. раена працякае Зах. Дзвіна і яе прытокі: Ула са Свячанкай, Крывінка з Бярозкай 55 азер, самае вял.— Сарo. Пад лесам 20 % тэрыторыі Па тэр. раена праходзяць аўтадарогі Віцебск — Лепель, Шуміліна — Сянно і інш. Раенная газ. «Зара».

У 1925 у раене 13 сельсаветаў: Бачэйкаўскі, Бікложскі, Бешанковіцкі (спачатку наз. Ленінскі), Вярхоўскі, Ганкавіцкі, Каўлякоўскі, Макаравіцкі, Навікоўскі, Пажарышчанскі, Пяцігорскі, Свячанскі, Стрэлішчанскі і Чаркаскі. У 1931 далучаны сельсаветы. Астровенскі, Пліскі, Сініцкі, Сокараўскі, Ульскі, Усвейскі, Хоцінскі Плошча раена больш за 140 430 га, нас. 68 500 чал. У 1-й пал

1920-х гадоў у Астроўне, Бачэйкаве, Бешанковічах, Уле ўзніклі невял. арцелі ганчароў, адноўлены цагельні ў Бачэйкаве і Бешанковічах. У 1925 створаны першыя калект. гаспадаркі. З 1.10.1928 да 1.5.1929 арганізавана 14 калгасаў. Фарсіраванне працэсу калектывізацыі суправаджалася раскулачваннем заможных сялян. Да вясны 1933 абагульнена 80 % сял. гаспадарак. У 1931 створаны Бешанковіцкая, пазней Астровенская і Бачэйкаўская МТС. У 1932 дзейнічала 56 прадпрыемстваў і арцелей. У 1933 у раёне 20 школ сял. моладзі, 76 чатырохгадовых школ; за перадваенны час адкрыта яшчэ 47 школ. Дзейнічала 30 клубных устаноў, 27 б-к, 19 хат-чытальняў, 5 бальніц, 9 фельчарска-акушэрскіх пунктаў. З 20.2.1938 раён у складзе Віцебскай вобл.

У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 раён акупіраваны ням.-фаш. войскамі. На яго тэр. дзейнічалі партыз. брыгады: 1-я Віцебская (2-га складу), «За Савецкую Беларусь», імя А. Ф. Данукалава, 2-я Бел. імя Панамарэнкі (2-га складу), імя Леніна, імя Чапаева, Лёзненская, Чашніцкая «Дубава»; падп. райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ; выдавалася падп. газ. «Сталінец». Акупанты спалілі ў раёне 34 вёскі, знішчылі больш за 10 тыс. чал. мірнага нас., вывезлі ў Германію больш за 2 тыс. чалавек. Загінуў амаль кожны 3-і жыхар раёна. Вызвалены войскамі 1-га Прыбалтыйскага фронту ў ходзе *Віцебска-Аршанскай аперацыі 1944*.

У раёне асн. месца займае с.-г. вытворчасць. Працуюць 14 калгасаў, 5 дзяржгасаў, 9 фермерскіх гаспадарак, міжкалгасная ПМК, аграпрамысл. аб'яднанне «Бешанковіцкае». Прамысл. прадпрыемствы: хлебакамбінат (з-ды ў Бешанковічах і Уле), малочны з-д (Бешанковічы), Ульскі кансервава-гароднінасушыльны з-д, ільнозавод, ф-кі мастацкіх і рымарскіх вырабаў; Ульскае СПТВ, 14 сярэдніх, 9 васьмігадовых, 33 пач. школы, 2 дапаможныя школы-інтэрнаты, дзіцячая школа мастацтваў, 4 музычныя, дзіцяча-юнацкая спартыўная школы, 9 дашкольных устаноў, Дом творчасці дзяцей і юнацтва, 28 клубных устаноў, *Бешанковіцкі гісторыка-краязнаўчы музей*, 33 бібліятэчныя ўстановы. Дзейнічае 31 кінаўстаноўка (у т. л. 26 стацыянарных), 5 бальніц, 9 фельчарска-акушэрскіх пунктаў.

У раёне б р а ц к і я  м а г і л ы сав. воінаў і партызан, што загінулі ў Вял. Айч. вайну ў вёсках Вярхоўе, Галыні (сярод пахаваных Героі Сав. Саюза А. П. Возлікаў, У. К. Далгоў, С. І. Іларыёнаў, А. А. Саркісянц), Дуброва (сярод пахаваных Герой Сав. Саюза М. Ц. Кузняцоў), Задарожжа, Клешчына (сярод пахаваных Герой Сав. Саюза М. П. Краўчанка), Навасёлкі, Пажарышча, Плісы, Саннікі (сярод пахаваных Героі Сав. Саюза М. Дз. Вяснін, А. Т. Маслікаў, Б. Я. Янтыміраў, грузінскі паэт М. Г. Гелавані), Свяча, Скакуноўшчына, Слабодка, Сокарава, Старадворцы, Фролкавічы (сярод пахаваных Герой Сав. Саюза М. В. Крапцоў-Зайчанка); в а й с к о в ы я  м о г і л к і ў в. Узрэчча (сярод пахаваных Героі Сав. Саюза Дж. *Асаналіеў*, І. С. Бірукоў, М. С. Дароўскі, А. М. Звераў, І. А. Мартынаў, І. А. Плякін, У. Д. Салончанка, М. П. Хваткоў); м а г і л ы ахвяр фашызму каля в. Дворнік, партызан і ахвяр фашызму ў в. Чанавічы, мал. лейтэнанта У. Р. Давыдава ў в. Кавалеўшчына, сав. воіна Д. І. Давыдава ў в. Доўгае (Свячанскі с/с), сав. воіна ў в. Ржаўка, партызан А. І. Ганчарова ў в. Берашэўцы, А. Ф. Краенкава ў в. Дапаны. П о м н і к і: Герою Сав. Саюза Л. М. *Даватару* ў в. Хоціна; сав. воінам у в. Гняздзілава; землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, у вёсках Будзілава, Верхняе Крывіна, Вярхоўе, Двор Нізгалава, Забелле, Застарынне (Пліскі с/с), Камоскі, Касарэўшчына, Клешчына, Крупеніна, Луг, Мамойкі, Паўазер'е, Ржаўка, Чурылава; у гонар партыз. атрадаў «Сібірак» і імя Чапаева ў в. Чанавічы; партызанам у в. Доўгае (Астровенскі с/с); на месцы фарсіравання Зах. Дзвіны войскамі 1-га Прыбалтыйскага фронту ў 1944 (в. Будзілава). П о м н і к і  а р х і т э к т у р ы: сядзіба 2-й пал. 19 ст. ў в. Двор Нізгалава; цэрквы — 19 ст. ў в. Марцінава, Казанскай маці Боскай (пач. 20 ст.) у в. Прыдзвінне, Успенская (1-я пал. 19 ст.) у в. Дабрыгоры, Мікалаеўская (канец 19 — пач. 20 ст.) у в. Слабодка; парк «Саломінка» пач. 20 ст. ў в. Дабрыгоры. П о м н і к і  а р х е а л о г і і: гарадзішчы каля вёсак Беркава, Бортнікі 1-я, Застарынне, Рубеж, Чарнагосце, Янаўшчына; курганныя могільнікі каля вёсак Давыдкавічы, Жарнасекава, Жданава, Замашэнне, Зарэчча, Крупеніна, Узрэчча, Ульянаўка, Фролкавічы, курганы каля вёсак Бортнікі 1-я, Зарэчча, Прыгожае.

Сярод ураджэнцаў раёна: акад. АН БССР Ц. С. *Гарбуноў*, д-р гіст. навук, праф. М. В. *Уласенка*, кандыдат гіст. навук, праф. А. Ц. *Караткевіч*, дактары мед. навук, прафесары М. Н. Жукава, В. М. Захараў, І. М. Сіпараў, У. М. Шылянок, С. І. Юпатаў, акад. жывапісу І. Ф. Хруцкі, мастакі А. А. Ткачонак, І. Ц. Бабаедаў, І. У. Казак, пісьменнікі Б. П. Беліжэнка, А. З. Гутковіч, С. І. Законнікаў, Г. І. Казак, Героі Сав. Саюза К. А. *Абазоўскі*, М. А. *Высагорац*, Л. М. *Даватар*, І. І. *Строчка*.

*Літ.*: Россия: Полное геогр. описание нашего отечества. Т. 9. Верхнее Поднепровье и Белоруссия. Спб., 1905; Административно - территориальное устройство БССР: Справ. Т. 1 (1917—1941 гг.). Мн., 1985; Т. 2 (1944—1980 гг.). Мн., 1987; Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: Віцебская вобл. Мн., 1985; К р а ч к о ў с к і  А. В. Край наш Наддзвінскі. Мн., 1990; Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Бешанковіцкага р-на. Мн., 1991.

*А. В. Крачкоўскі, А. І. Марозава.*

**БЕШАНКО́ВІЧЫ**, гар. пасёлак, цэнтр *Бешанковіцкага раёна*, прыстань на левым беразе Зах. Дзвіны. За 51 км ад Віцебска, 38 км ад чыг. ст. Чашнікі на лініі Орша — Лепель. Вузел аўтадарог на Віцебск, Лепель, Сянно, Улу, Чашнікі, Шуміліна. 9437 жыхароў (1992).

У пісьмовых крыніцах Б. ўпершыню ўпамінаюцца пад 1447 (паводле А. П. Сапунова) або 1460 (паводле В. В. Турчыновіча). З пач. 16 ст. як вёска ўваходзілі ў *Полацкае ваяводства*, належалі князям Друцкім-Саколінскім (у 1552 былі 34 двары). У 1605 Я. Саколінскі прадаў Б. шляхціцам Язерскім, ад якіх у 1615 яны перайшлі да аршанскага маршалка М. Адравонжа. У 1630 разам з іншымі маёнткамі куплены віленскім ваяводам К. Л. Сапегам. Пры ім Б. хутка развіва-

БЕШАНКОВІЦКІ РАЕН

Помнікі і месцы звязаныя з

ліся, атрымалі статус мястэчка, з 1634 мелі *магдэбургскае права* і дазвол на 2 кірмашы ў год, 1 гандлёвы дзень у тыдзень. З канца 17 ст. належалі князям Агінскім. Мястэчка хутка разрасталася, з'явіліся мураваныя дамы. У Паўночную вайну 1700—21 у Б. стаялі рус. войскі (1708), тройчы наведваў Пётр І. З сярэдзіны 18 ст. Б.— горад, каля 1,5 тыс. двароў, 5—6 тыс. жыхароў; цэнтр ганчарнага і мылаварнага рамёстваў, вырабу гонты. Для эканам. развіцця Б. важнае значэнне меў адзін з буйнейшых на Беларусі штогадовых кірмашоў (29 чэрв.— 27 ліп.), на які з'язджаліся бел., рускія і нават заходнееўрап. купцы (гл. *Бешанковіцкі кірмаш*). У 1783 Б. падараваны Агінскім кіраўніку каралеўскай групоўкі магнатаў і шляхты ВКЛ І. Л. Храптовічу. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай у 1772 задзвінская частка Б. (500 двароў) адышла да Рас. імперыі, астатняя (каля 1750 двароў на 1785 г.) — пасля 2-га падзелу ў 1793; як мястэчка ўваходзіла ў *Лепельскі павет*. У Айч. вайну 1812 Б. акупіраваны 11 ліп., тут размяшчаўся французскі гарнізон, некалькі дзён знаходзіўся штаб імператара Напалеона; вызвалены 20.10.1812. Для агляду раскватараванай у наваколлі мястэчка рус. гвардыі ў вер. 1821 сюды прыязджаў імператар Аляксандр І. У 1821—22 адбыўся бунт рамеснікаў і сялян супраць графа Храптовіча. У 1868 у Б. 3205 ж., 392 дамы, нар. вучылішча, 2 гарбарныя з-ды; піваварня, вінакурня, 115 крам; у наваколлі каля 17 вадзяных і ветраных млыноў; па Зах. Дзвіне з Улы на Віцебск з 1881 рэгулярна хадзіў параход (з 1892—4 параходы). Паводле перапісу 1897, жыхароў 4423. У пач. 20 ст. Б.— цэнтр воласці. У мястэчку 7 мураваных і 1243 драўляныя дамы, паштовае аддзяленне, тэлеграфная кантора, бальніца, царк.-прыходская школа, 3 нар. вучылішчы, 127 крам, 3 тыс. сажняў брукаваных вуліц. Дзейнічалі філіі віцебскіх арг-цый РСДРП і Бунда, якія ўзначальвалі рэв. рух.

Сав. ўлада ўстаноўлена ў Б. 13(26).11. 1917. Тут размяшчаўся валасны рэўком, пазней — камбед, Савет. У час акупацыі Беларусі войскамі кайзераўскай Германіі Б. знаходзіліся ў прыфрантавой паласе. У сувязі з акупацыяй Лепеля ў лютым — вер. 1918 сюды быў перанесены цэнтр Лепельскага пав.; з крас. да канца вер. 1918 Б.— цэнтр Бешанковіцкага павета. У 1919—24 у складзе Віцебскай губ. ўваходзіла ў РСФСР: у 1919—23 у Лепельскім, 1923—24 у Бачэйкаўскім пав. З 1924 цэнтр раёна ў *Віцебскай акрузе* (да 1930), з 27.9.1938 гар. пасёлак у Віцебскай вобл. (4,3 тыс. ж., 1939). У Вял. Айч. вайну акупіраваны 6.7.1941, разбураны і спалены. Дзейнічалі падп. райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ. Вызвалены 25.6.1944 войскамі 6-й гв. (камандуючы ген.-л. І. М. Чысцякоў) і 43-й (ген.-л. А. П. Белабародаў) армій 1-га Прыбалтыйскага фронту ў ходзе *Віцебска-Аршанскай аперацыі 1944*. Пасля вайны адбудаваны. У 1969 у Б. 4,7 тыс. ж., у 1977—5,5 тыс. Дзейнічае адзіная ў рэспубліцы ф-ка рымарскіх вырабаў, ф-ка мастацкіх вырабаў, хлебакамбінат, ільнозавод, малочны з-д, камбінат быт. абслугоўвання, лясгас, міжкалгасная ПМК. У Б. 2 сярэднія школы, дзіцячая школа мастацтваў, дзіцяча-юнацкая спартыўная і музычная школы, школа-інтэрнат, 6 дашкольных устаноў, Дом піянераў і школьнікаў, Дом культуры, 3 кінаўстаноўкі, *Бешанковіцкі гісторыка-краязнаўчы музей*, 2 б-кі, бальніца. Раённая газ. «Зара».

Брацкая магіла сав. воінаў, якія загінулі пры вызваленні Бешанковіцкага р-на (сярод пахаваных Героі Сав. Саюза М. П. Лугоўскі, Р. І. Спольнік, Г. Ф. Хараборкін, М. Ф. Шварцман); магілы ахвяр фашызму і сав. ваеннапалонных. Помнікі К. А. *Абазоўскаму*, Л. М. *Даватару*, П. М. *Раманаву*, М. М. *Ткачэнку*, землякам, камсамольцам і моладзі, курган Славы. Помнікі архітэктуры: палацава-паркавы ансамбль Храптовічаў канца 17—1-й пал. 19 ст., Ільінская царква 19 ст.

У Б. нарадзіліся Герой Сав. Саюза М. М. Ткачэнка, скульптар У. І. Казак, графік С. Б. Юдовін, паэты А. А. Гейнэ, Г. І. Казак.

Бешанковічы. Выгляд з боку Заходняй Дзвіны

*Літ.*: Рябинин И. С. Местечко Бешенковичи (Витеб. губ.) // Полоцко-Витебская старина. Витебск, 1912. Вып. 2; гл. таксама пры арт. *Бешанковіцкі раен.*

*А. В. Крачкоўскі, А. І. Марозава.*

**БЁРДА**, вёска ў Клічаўскім пасялковым Савеце Клічаўскага р-на. За 5 км на ПдУ ад г. п. Клічаў, 12 км ад чыг. ст. Нясета на лініі Магілёў — Асіповічы. 218 ж., 105 двароў (1990).

Вядома з 1560 як сяло ў Бабруйскай вол. ВКЛ, дзярж. ўласнасць. У 1639 было 62 ж. мужчынскага полу, 21 двор, у Бабруйскім старостве. У 1647 38 двароў, у Рэчыцкім пав., шляхецкая ўласнасць. Паводле 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) уключана ў склад Рас. імперыі. З канца 18 ст. ў Бацэвіцкай вол. Бабруйскага пав. Мінскай губ. У 1846 цэнтр памешчыцкага маёнтка, 179 ж., 30 двароў. У 1860 227 ж., 30 двароў; у 1897 447 ж., 58 двароў. Быў хлебазапасны магазін. Штогод 1 кастр. праводзілася вясковае свята (фэст). Побач былі аднайменныя маёнтак (18 ж.) і выселак (12 ж., 2 двары). У 1907 у вёсцы 521 ж., 62 двары, у маёнтку 10 ж. У 1911 адкрыта земская школа. Побач стаяла карчма. У 1917 у вёсцы 556 ж., 73 двары, у маёнтку 16 ж. Сав. ўлада ўстаноўлена ў ліст. 1917. З лютага да ліст. 1918 акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі. Пасля вызвалення на базе дарэв. школы створана працоўная школа 1-й ступені, у якой у 1925 быў 81 вучань. У 1925 створана масларобчая арцель. У 1926 у вёсцы 620 ж., 117 двароў, у фальварку 14 ж., 3 двары. У 1930 арганізаваны калгас «Колас». Да 1939 вёска ў Ваёвіцкім сельсавеце Клічаўскага р-на Бабруйскай акр. (да 26.7.1930), з 20.2.1938 — Магілёўскай вобл. З 1939 цэнтр сельсавета. У 1940 219 ж., 73 двары. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Восенню 1941 партызаны разгромілі ў вёсцы паліцэйскі гарнізон, была створана група самаабароны, якая затым далучылася да 277-га партыз. атрада. Б. ўвайшла ў *Клічаўскую партызанскую зону*. У сак. 1943 гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 37 жыхароў. Вызвалена 28.6. 1944. Пасля вайны адбудавана. У 1954—60 цэнтр сельсавета. У 1962—65 у сувязі са скасаваннем Клічаўскага р-на Б. ўваходзіла ў склад Кіраўскага р-на. У 1970 у вёсцы 323 ж., 90 двароў. Цэнтр калгаса «Уперад да камунізма». У Б. размешчаны майстэрні па рамонце сельгастэхнікі, лесапільня, зернедрабільня, фермы, ёсць 8-гадовая школа, дзіцячы сад, фельчарска-акушэрскі пункт, аддзяленне сувязі, клуб, б-ка, 2 магазіны. *У. Дз. Будзько.*

**БЖАЗО́ЎСКІ** (Brzozowski) Тадэвуш [24.10.1749, Вармія, Польшча — 24.1(5.2). 1820], дзеяч каталіцкай царквы, ген. ордэна *езуітаў* (з 1805), педагог. Уступіў у ордэн у 1765. Вывучаў мовы, філасофію і прыродазнаўчыя навукі ў езуіцкіх школах у Слуцку і Нясвіжы, скончыў Віленскую духоўную семінарыю (1775). Быў настаўнікам у ваяводскай школе ў Мінску. У 1782 перасяліўся ў Полацк, дзе выкладаў у езуіцкім навіцыяце, займаўся перакладамі, стаў вядо-

мы як прапаведнік. З 1797 сакратар, з 1802 асістэнт ордэна. Узначаліўшы ордэн пасля смерці Г. Грубера, Б. працягваў яго палітыку актыўнага пашырэння ўплыву езуітаў у Расіі і прапаганды каталіцызму шляхам утварэння новых і ўмацавання існуючых місій, калегій, навуч. устаноў ордэна. Для гэтага выкарыстоўваў пэўныя сімпатыі да езуітаў ва ўрадавых колах (А. К. Разумоўскі, А. М. Галіцын) і езуіцкую партыю ў Пецярбургу (сардзінскі пасланнік і публіцыст Ж. дэ Местр, блізкі да Аляксандра І сенатар А. І. Ілінскі і інш.). Дзякуючы намаганням Б. ў 1808 з Пінска ў Полацк былі перанесены астанкі езуіта А. Баболі, закатаванага ў 1657 казакамі. Вяршыняй поспехаў Б. было стварэнне ў 1812 *Полацкай езуіцкай акадэміі* з вывядзеннем навуч. устаноў езуітаў з падпарадкавання *Віленскай навучальнай акрузе*. Падчас Айч. вайны 1812 езуіты трымаліся падкрэслена лаяльна: Б. пераехаў з Полацка ў Пецярбург, езуіцкія ўстановы ў Полацку, Віцебску, Оршы з набліжэннем французаў зачыняліся. Аднак з 1813 адносіны ордэна з расійскім урадам пагоршыліся. Б. адмовіўся стаць членам Біблейскага т-ва, куды, па жаданні цара, увайшлі многія праваслаўныя іерархі і каталіцкі мітрапаліт С. *Богуш-Сестранцэвіч*. Пры аднаўленні ў 1814 ордэна езуітаў ва ўсім свеце Б. захаваў сваё месцазнаходжанне ў Пецярбургу. У снеж. 1815 езуітаў выслалі з Пецярбурга, і цэнтр адміністрацыя ордэна вярнулася ў Полацк, дзе Б. і памер. Неўзабаве пасля яго смерці быў прыняты закон [13(25).3.1820] аб высылцы езуітаў з Расіі.

*Літ.*: Wiadomość o życiu, pismach i śmierci JX Tadeusza Brzozowskiego, generała jezuickiego // Miesięcznik połocki 1820. № 2, Maistre J de Lettres et opuscules inédits T. 1—2 Paris, 1851 *В В Антонаў*

**БІ́БІК** Федар Цярэнцьевіч (1910, в. Лапці, цяпер в Майская Мазырскага р-на — 5.5.1945), поўны кавалер ордэна Славы. Працаваў сталяром у калгасе. У Вял. Айч. вайну на фронце з ліп. 1944. Сапер яфрэйтар Б. вызначыўся ў баях за вызваленне Украіны і Польшчы. 5.7.1944 на Пн ад г. Ковель зрабіў праход у драцяной загародзе для штурмавой групы; 26.8.1944 у баях за пашырэнне плацдарма на левым беразе Віслы (на Пн ад Сандаміра) пад агнем ворага зрабіў праход у мінным полі для сав. разведчыкаў; 14.1.1945 у час прарыву абароны праціўніка на левым беразе Віслы пад варожым агнём зрабіў праход у драцяной загародзе і зняў 140 мін. Загінуў у баі.

**БІ́БІКАВЫ**, рускія дзярж. і ваен. дзеячы. Браты. З сям'і генерала.

Дзмітрый Гаўрылавіч [1792—22.2(6.3).1870]. Генерал ад інфантэрыі (1845). Вайсковую службу пачаў у 1808 карнетам у *Беларускім гусарскім палку*. Удзельнічаў у рус.-турэцкай вайне 1806—12. У Айч. вайну 1812 браў удзел у баях пад Віцебскам, Смаленскам, у Барадзінскай бітве быў цяжка паранены (страціў левую руку). З 1819 на грамадз. службе, віцэ-губернатар Уладзімірскай, Саратаўскай, Маскоўскай губерняў. У 1825—35 дырэктар Дэпартамента знешняга гандлю, спрабаваў суровымі мерамі выкараніць злоўжыванні ў мытнай службе З 1837 сенатар, з 1848 чл. Дзярж. савета. У 1837—52 кіеўскі, падольскі і валынскі ген.-губернатар, у 1852—55 міністр унутр спраў Расіі. Каб змякчыць класавыя супярэчнасці на весцы і эканамічна аслабіць варожае царызму польскае і паланізаванае дваранства, прапанаваў праект *інвентарнай рэформы 1840—50-х гадоў* на Правабярэжнай Украіне, Беларусі і ў Літве, настойліва праводзіў яго ў жыццё. У 1852 дамогся пашырэння на бел. і літоўскія губерні больш спрыяльных для сялян інвентарных правіл, распрацаваных ім для Кіеўскага генерал-губернатарства (у 1855 па хадайніцтве памешчыкаў іх увядзенне спынена). Як тыповы прадстаўнік казеннага велікарус. нацыяналізму мікалаеўскай эпохі, актыўна ажыццяўляў палітыку русіфікацыі, дамагаўся «зліцця Заходняга рускага краю са старажытнай айчынай прыродных яго жыхароў». Паводле ўказання Б. мясц. чыноўнікаў замянялі рускімі, праведзена пагалоўная праверка правоў мясц. шляхты на дваранства, частка яе переселена ў інш. губерні, каб ачысціць край ад «небяспечнага элемента». У навуч. установах зах. губерняў пашырылася выкладанне рус. мовы і гісторыі Расіі, настаўнікамі прызначаліся пераважна асобы рус. нацыянальнасці. Прымаліся меры па абмежаванні гасп. дзейнасці яўрэйскага насельніцтва. Б. быў ініцыятарам стварэння ў Кіеве Часовай камісіі для разгляду стараж. актаў (1843), кіеўскага Цэнтральнага архіва стараж. актаў (1852). Асабістую б-ку (каля 14 тыс. тамоў) завяшчаў Кіеўскаму ун-ту.

Ілья Гаўрылавіч [1794—6(18).4.1867]. Генерал ад артылерыі (1852). Удзельнік Айч. вайны 1812, замежных паходаў рус. арміі 1813—14, рус.-турэцкай вайны 1828—29. Непрацяглы час прымыкаў да руху дзекабрыстаў, быў членам «Саюза працвітання». Удзельнічаў у задушэнні *паўстання 1830—31* у Польшчы, на Беларусі і ў Літве (баі пры Якацы і Жолтках, узяцце Варшавы). У 1831—50 займаўся ўдасканальваннем рус. артылерыі. Пры падтрымцы брата Дзмітрыя ў 1850 прызначаны віленскім, гродзенскім, мінскім і ковенскім ген.-губернатарам, папячыцелем *Віленскай навучальнай акругі*. Не вызначаўся ініцыятывай у кіраванні, але настойліва праводзіў лінію брата, асабліва ў ажыццяўленні інвентарнай рэформы. Асцерагаючыся сял. выступленняў, дамагаўся ад памешчыкаў строгага захавання вызначаных інвентарамі памераў павіннасцей. Адначасова патрабаваў суровага задушэння «бунтаў» сялян і «тайных змоў». Актыўны прыхільнік палітыкі русіфікацыі, дамагаўся ўвядзення рус. мовы ў каталіцкае богаслужэнне. Звольнены з пасады ў 1855 пасля адстаўкі брата-міністра.

*В У Чапко*

Бешанковічы. Ільінская царква

**БІ́БІКАЎ** Васіль Мікалаевіч [н 4(17).1. 1910, г. Прапойск Быхаўскага пав. Магілеўскай губ., цяпер г. Слаўгарад], генерал-лейтэнант авіяцыі (1954). У Чырв. Арміі з 1929. Удзельнік нац.-рэв. вайны ў Іспаніі ў 1936—37, лётчык, камандзір звяна, атрада (зрабіў 78 баявых вылетаў). Са снеж. 1937 камандзір авіяц. брыгады, ст нам. інспектара ВПС Чырв. Арміі. З 1940 камандуючы ВПС арміі. У Вял. Айч вайну з ліп. 1942 камандуючы паветр. арміяй Далекаўсх. фронту. Удзельнік разгрому японскай Квантунскай арміі ў 1945. Скончыў Ваен акадэмію Генштаба (1949). У 1945—61 у ВПС.

**БІБЛЕ́ЙСКІЯ ТАВАРЫ́СТВЫ**, грамадскія рэлігійна-дабрачынныя арганізацыі, якія маюць на мэце пераклад *Бібліі* і яе частак на нацыянальныя мовы і распаўсюджванне Свяшчэннага Пісання сярод народаў свету. Найбольш вядомае — Брытанскае і замежнае біблейскае т-ва (засн. ў 1804). На яго ўзор у 1812 па ініцыятыве ўрадавых колаў Расіі, шэрага іерархаў Рускай праваслаўнай царквы і мітрапаліта каталіцкай царквы Расіі С. І. *Богуш-Сестранцэвіча* было створана Пецярбургскае біблейскае т-ва, пераўтворанае ў 1814 у агульнаімперскае Расійскае біблейскае т-ва. Узначальвалася камітэтам, куды ўвайшлі вышэйшыя саноўнікі і духоўныя асобы — прадстаўнікі ўсіх хрысціянскіх канфесій імперыі. Прэзідэнтам быў абраны галоўнакамандуючы замежнымі вызнаннямі А. М Галіцын (з 1817 міністр духоўных спраў і нар. асветы, обер-пракурор Сінода). Т-ва купляла, перакладала, друкавала і распаўсюджвала кнігі Свяшчэннага Пісання больш чым на 40 мовах, праводзіла місіянерскую работу сярод нехрысціянскага насельніцтва імперыі. Многія пераклады Новага запавету, у т. л рускі, былі ажыццеўлены ўпершыню. У 1814—24 т-ва распаўсюдзіла больш за 700 тыс. экз. Бібліі і яе частак. Садзейнічала пашырэнню ў Расіі *ланкастэрскіх школ*

для бедных, займалася дабрачыннай дзейнасцю. За час існавання т-ва адкрыла 289 мясцовых аддзяленняў, у т. л. на Беларусі. З 1816 яго аддзяленні дзейнічалі ў Магілёве (віцэ-прэзідэнты: праваслаўны архіепіскап магілёўскі і віцебскі Данііл, каталіцкі біскуп М. Мадзянеўскі, грамадзянскі губернатар Дз. Талстой), Віцебску (віцэ-прэзідэнты: полацкі уніяцкі архіепіскап І. Красоўскі, беларускі ваенны губернатар *Аляксандр Вюртэмбергскі*, грамадзянскі губернатар П. Тармасаў), з 1817 у Мінску (віцэ-прэзідэнты: праваслаўны архіепіскап мінскі Анатолій, цывільны губернатар К. Сулістроўскі) і Гродне (віцэ-прэзідэнты: ксёндз Т. Стругулеўскі, цывільны губернатар С. Урсын-Нямцэвіч). Аддзяленні Расійскага біблейскага т-ва ў губ. цэнтрах і іх «сутаварыствы» (падраздзяленні) у павятовых гарадах распаўсюджвалі сярод насельніцтва Беларусі Біблію на царкоўнаславянскай, французскай, нямецкай і Новы запавет на царкоўнаславянскай, рускай, польскай [пераклад Я. Вуйка, выдадзены ў 1771 у Брэслаў (цяпер Вроцлаў)], латышскай, нямецкай, французскай, яўрэйскай (лонданскае выданне) мовах. Пытанне пра бел. пераклад Бібліі не ставілася. Дзейнасць Расійскага біблейскага т-ва была супярэчлівая. Цесна звязанае з уладай і палітыкай самадзяржаўя, яно мела выразна афіцыёзны характар. З другога боку, імкненне т-ва як мага шырэй распаўсюджваць Біблію на нац. мовах, без каментарыяў і тлумачэнняў, выклікала рэзкі пратэст Ватыкана і незадаволенасць рускіх кансерватыўных колаў, у т. л. тых іерархаў Рускай праваслаўнай царквы, якія бачылі ў яго працы наступ іншаземных рэфарматарскіх ідэй, падрыў пазіцыі пануючай царквы і ідэалагічных асноў рускай дзяржавы. У 1824 пад націскам крытыкаў Аляксандр I вымушаны быў прыпыніць дзейнасць Расійскага біблейскага т-ва, канчаткова яно скасавана ў 1826 Мікалаем І. З 1831 у Расіі дзейнічала выключна для пратэстантаў імперыі Евангелічнае біблейскае т-ва. У Зах. Еўропе і Амерыцы Б. т. не спынялі дзейнасці. У 1946 у Лондане створана міжнароднае Аб'яднанае біблейскае т-ва. Шырокае распаўсюджванне Бібліі на Беларусі аднавілася з канца 1980-х гадоў у выніку ўзнікнення спрыяльных умоў для дзейнасці царк. і рэліг. арг-цый і дзякуючы намаганням міжнар. цэнтраў па перакладу і папулярызацыі кніг Свяшчэннага Пісання.

*Літ.*: Об учреждении Могилевского отделения Российского библейского общества и о Комитете оного. Спб., 1817; Об открытии Минского отделения Российского библейского общества. Спб., 1817; Пыпин А. Н. Религиозные движения при Александре I. Пг., 1916; Чистович И. А. История перевода Библии на русский язык. 2 изд. Спб., 1899.

*С. А. Кузняева.*

**БІ́БЛІЯ** (грэч. biblia, літар. кнігі), зборнік твораў стараж. пісьменства, Святая кніга іудзейскай (Стары запавет) і хрысціянскай (Стары і Новы запаветы) рэлігій. Своеасаблівая анталогія выбраных кніг, аб'яднаных не толькі фармальна (згрупаваны ў адным пераплёце паводле храналагічнага прынцыпу), але і ўнутр. значэннем і сімвалічным сэнсам.

Складалася на працягу 1-га тысячагоддзя да н. э.— 2 ст. н. э. на тэр. Палесціны (стараж. Ізраільска-Іудзейскае царства) і ў месцах яўрэйскай дыяспары на арамейскай, стараж.-яўрэйскай і стараж.-грэчаскай мовах. Поўная Б. складаецца з 2 частак — Старога запавету (50 кніг, з іх 39 кананічных, якія выкарыстоўваюцца ў літургічнай службе, і 11 некананічных, прызнаных хрысціянскай царквою карыснымі для духоўнага выхавання) і Новага запавету [27 кніг: 4 Евангеллі (паводле Матфея, Марка, Лукі, Іаана), зборнік з 22 твораў пад агульнай назвай Апостал, Апакаліпсіс (Адкравенне Іаана Багаслова)]. Паводле багаслоўскага тлумачэння, у назвах частак Б. слова «запавет» азначае запавет Бога «выбранаму народу» (стараж. яўрэям, якія спавядалі монатэістычную рэлігію), а праз яго — усяму чалавецтву. Іудзейская Б. складаецца з 39 кананічных кніг: Закон, або Пяцікніжжа (паяўрэйску Тора, прыпісваецца Майсею), Прарокі (кн. Ісаі, Ераміі, Езекііль, Данілы і 12 «малых пракрокаў», кн. Ісуса Навіна, Суддзяў, 4 кн. кнігі Царстваў), Пісанні (кн. Руф, 1-я і 2-я Параліпаменон, Ездры, Неяміі, Эсфір, Іова, Псалтыр, Прытчы Саламона, Еклезіяст, Песня песням, плач Ераміі). Кананічныя кн. Старога запавету былі напісаны стараж.-яўрэйскай і часткова арамейскай мовамі.Старазапаветная частка хрысціянскай (праваслаўнай і каталіцкай) Б., у дадатак да кананічных, уключае таксама некананічныя кнігі: 1—3-ю Ездры, Тавіта, Юдзіф, Прамудрасць Саламона, Прамудрасць Ісуса Сірахава, прарока Баруха, 1—3-ю кн. Макавеяў. Некананічныя кнігі напісаны на стараж.-грэч. мове (кн. Тавіт і Юдзіф, на думку некаторых даследчыкаў, першапачаткова пісаліся на халдзейскай, г. зн. арамейскай, мове). У Б., якую выдаюць пратэстанцкія царк. абшчыны, некананічныя кнігі звычайна не ўключаюцца.

Новы запавет быў напісаны на т. зв. александрыйскай гаворцы стараж.-грэч. мовы. Выключэннем з'яўляецца Евангелле паводле Матфея, напісанае на сірыйска-халдзейскай гаворцы стараж.-яўрэйскай мовы. У Б. не ўвайшлі *апокрыфы* — першаевангелле Якава, Евангелле Фамы, Апакаліпсіс апостала Пятра, Апакаліпсіс апостала Паўла, Хаджэнне Багародзіцы па пакутах, Аб дванаццаці пакутах і інш. творы розных жанраў (мастацкія, публіцыстычныя, філас.), напісаныя на біблейскія тэмы і матывы ананімнымі аўтарамі ў эпоху позняй антычнасці і ранняга сярэднявечча. Царкоўная традыцыя і біблейская крытыка лічаць іх падробкамі або наследаваннямі.

На працягу амаль тысячагоддзя біблейскія творы распаўсюджваліся паасобку ў рукапісных спісах (скрутках) і выкарыстоўваліся ў выхаваўчых і рэліг. мэтах. Першы звод старазапаветнай часткі Б. стварылі ў 2 ст. да н. э. ў Александрыі 70 «талкоўнікаў», перакладчыкаў са стараж.-яўрэйскай і арамейскай моў на стараж.-грэчаскую. Захаваўся рукапісны спіс 4 ст. н. э. гэтага перакладу пад назвай Септуагінта (лац. Septuaginta семдзесят), які стаў адной з асн. крыніц пазнейшых выданняў біблейскіх кніг. У 386—406 багаслоў Еранім зрабіў лац. пераклад Б.— Вульгату (лац. Vulgata народная, агульнадаступная). Еранім выкарыстаў тэксты на стараж.-грэч. мове і Септуагінту. Вульгата лягла ў аснову варыянта Б., прынятага каталіцкай царквой у якасці афіц. тэксту. У 4—13 ст. з'явіліся шматлікія рэгіянальныя пераклады Б.: сірыйскі, арабскі, версіі персідская, караімская, татара-іудзейская і інш. У 9 ст. славянскія асветнікі браты Кірыла і Мяфодзій пераклалі Б. на стараслав. мову. Гэты пераклад лёг у аснову рукапісных біблейскіх кніг, што бытавалі на ўсходнеслав. землях, у т. л. Полацкім, Турава-Пінскім і інш. беларускіх княствах. Першы рукапісны звод Б. на царкоўнаслав. мове ўкладзены ў 1499 у Ноўгарадзе па ініцыятыве архіепіскапа Генадзя («Генадзіеўская Біблія»). У 1488 у Празе першымі сярод славян на роднай мове выдалі друкаваную Б. чэхі.

На Беларусі спісы асобных біблейскіх кніг або іх фрагментаў з'явіліся пасля хрышчэння Русі (988). Верагодна, у канцы 10 ст. перапісваннем кніг Б. займалася *Рагнеда Рагвалодаўна*, якая ў Ізяслаўлі (Заслаўі) пастрыглася ў манашкі пад імем Анастасіі. У 1-й пал. 12 ст. Ефрасіння Полацкая стварыла асветніцкі цэнтр у Полацку, дзе перапісваліся біблейскія кнігі. Свае скрыпторыі — цэнтры, у якіх перапісваліся кнігі,— мелі манастыры, гарады, епіскапскія кафедры. Цэнтр у Полацку быў найбольш буйным. Пра сталую біблейскую традыцыю сярэдневяковай Беларусі сведчаць высокамастацкія ілюстраваныя помнікі рукапіснай кнігі: *Аршанскае евангелле, Полацкія евангеллі, Лаўрышаўскае евангелле, Друцкае евангелле, Мсціжскае евангелле, Смаленскі псалтыр* з Успенскага манастыра (в. Пустынкі Мсціслаўскага р-на). Практычна ў кожнай стараж. б-цы Беларусі меліся біблейскія кнігі. Першым зборам царкоўнаслав. рукапісных кніг Б. на Беларусі стаў багата аздоблены ў неавізантыйскім стылі «Дзесятаглаў», створаны ў 1502—07 у Вільні і Супраслі перапісчыкам Мацеем Дзесятым. Разам з «Пяцікніжжам», перапісаным дзякам Фёдарам у 1514, «Дзесятаглаў» склаў поўны цыкл кніг Старога і Новага запаветаў. Да з'яўлення кнігадрукавання Б. заставалася элітарнай, маладаступнай кнігай. У 1517—19 Ф. Скарына пры падтрымцы аіленскіх мецэнатаў Якуба Бабіча і Багдана Онкава заснаваў у Празе друкарню і выдаў 23 ілюстраваныя кнігі першай беларускай Б. пад агульнай назвай «Бивлия руска, выложена доктором Франциском Скориною из славнаго града Полоцка, Богу ко чти и людем

посполитым к доброму научению». Гэта было унікальнае навук.-папулярнае выданне Б. на роднай мове, блізкай да тагачаснай бел. літаратурнай мовы. У якасці крыніц для сваіх перакладаў біблейскіх кніг Скарына выкарыстаў Вульгату, «Біблію чэшскую ў Венецыі друкаваную» (1506), стараж.-яўрэйскія арыгіналы і стараж.-слав. рукапісныя пераклады. На думку даследчыка Я. Л. Неміроўскага, бел. першадрукар пераклаў і, магчыма, надрукаваў усе кнігі Старога запавету, але яны не зберагліся. Пра гэта сведчаць рукапісныя спісы са скарынавых перакладаў: «Пераліпаменон», 4 кн. «Ездры» і «Тавіт», 12 раздзелаў 1-й кн. «Макавеяў», якія ў друкаваных кнігах не захаваліся. Такі спіс зрабіў у *1575 г.* «пісарчык» Дзмітрый з Зенькава в «неславном же граде Маначине» (цяпер с. Маначын Хмяльніцкай вобл. Украіны). Невядомыя ў друку пераклады Скарыны (2-й кн. «Параліпаменон», 4 кн. «Ездры» і кн. «Тавіт») знойдзены ў рукапіснай Біблii, якая спісана ў 1559 «повелением же и пильностию худаго человека на имя Луки в неславном же гради Тернополи» (травестацыя ўзнеслых слоў у прадмовах і пасляслоўях Скарыны: «у славном старом месте Празском», «у велико-славном месте Виленском», «ученого мужа, в лекарских науках доктора Франциска, Скоринина сына из славнаго града Полоцка, во великом месте Празском», «избранного мужа, в лекарских науках доктора...» і г. д.). Каля 1522 Скарына абсталяваў у Вільні друкарню і надрукаваў «Малую падарожную кніжку», дзе аб'яднаны Псалтыр, Часаслоўец (малітвы), урачыстыя гімны (каноны і акафісты, некаторыя з іх — паэтычныя творы Скарыны). У 1525 ен выдаў «Апостал». Напісаныя Скарынам 50 прадмоў і 62 пасляслоўі да сваіх кніг з'яўляюцца першым на Беларусі каментарыем да Б., у якім тлумачыцца паходжанне кожнай з апублікаваных кніг, іх аўтарства, асаблівасці сюжэтаў, вобразаў і сімвалаў, іх значэнне для рэліг., маральнага і грамадз выхавання «людзей простых, паспалітых». Перад кожным раздзелам біблейскіх кніг перакладчык і выдавец змясціў кароткія анатацыі, у якіх сціcла вызначаны змест адпаведнай часткі кнігі. На перакладчыцкую творчасць Скарыны ўплывала гуманіст. атмасфера эпохі Рэнесансу, своеасаблівы артыстызм, погляд на культуру з эстэт. пункта погляду. Параўнаўчы аналіз фрагментаў кананічнай Б. і адпаведных месцаў перакладу Скарыны сведчыць пра тое, што шмат якім маральна-тэалагічным ацэнкам перакладчык надаў эстэт. сэнс. Першыя словы «Біблii» (кн. «Быццё») у рэдакцыі Скарыны «В начале сотвори Бог небо и землю, земля же бе неплодна и не украшена». У папярэдніх старaслав. рэдакцыях толькі што створаная зямля ацэньваецца як «невидима и неустроена» («безвидна и пуста» у сучасным перакладзе на рус. мову).

Свецкае выданне «Біблii» Скарыны ўскосна паўплывала на ўзнікненне і развіцце Рэфармацыі на Беларусі. У 1563 на сродкі ўплывовага кальвініста Мікалая Радзівіла Чорнага на старапольскай мове была надрукавана Брэсцкая (Радзівілаўская) Біблія («Біблія святая, гэта значыць Кніга Старога і Новага запавету з яўрэйскай, грэчаскай і лацінскай нанава на польскую мову са стараннасцю дакладна перакладзеная»). Выданне было забяспечана прадмовай, каментарыямі і прадметным паказальнікам, багата аздоблена гравюрамі, застаўкамі і канцоўкамі. Заснавальнік біблейскай крытыкі на Беларусі і ў Літве С. *Будны* таксама выдаў Б. на старапольскай мове (Нясвіж, 1572; друкаванне закончана ў Заслаўі або Уздзе) і Новы запавет (Лоск, 1574). Каментарыі да апошняга выдання — адна з першых у Еўропе спроб рацыяналістычнай крытыкі евангельскіх кніг. На першым этапе сваей творчасці Будны быў прадаўжальнікам біблейска-асветніцкай традыцыі Скарыны. У 1562 у Нясвіжскай друкарні ен выдаў на бел. мове «Катэхізіс» — дыдактычны пераказ асн. ідэй Б. з прадмовай і пасляслоўем, стылістычна блізкімі да адпаведных твораў Скарыны. Прадаўжальнікам кнігавыдавецкай справы Скарыны на Беларусі быў В. *Цяпінскі*. Каля 1580 ен пераклаў на старабел. мову і выдаў «Евангелле» (паводле Матфея, Марка і частку Евангелля паводле Лукі) з прадмовай, у якой выступаў супраць дэнацыяналізацыі беларусаў, за дзяржаўнасць бел. мовы. Вопыт Скарыны, біблеіста і перакладчыка, выкарыстаіі І. *Фёдараў* і П. *Мсціславец*, якія выдавалі ў Маскве «Апостал» (1564). Пераехаўшы на Беларусь у 1566, яны на сродкі Р. Хадкевіча выдалі «Евангелле вучыцельнае» (Заблудаў, 1568—69) на царкоўнаслав. мове з прадмовай ад імя Хадкевіча, напісанай па-беларуску. Фёдараў таксама выдаў «Псалтыр з Часаслоўцам» (Заблудаў, 1569). Мсціславец выехаў у Вільню і ў друкарні Кузьмы і Лукі Мамонічаў выдаў «Евангелле напрастольнае», «Псалтыр» і «Часоўнік» (1575—76). Федараў у канцы 1572—пач. 1573 пераехаў у Львоў, заснаваў там 1-ю на Украіне друкарню і выдаў «Апостал» (1574), пазней, у друкарні К. Астрожскага ў Астрогу,— «Псалтыр» і «Новы запавет» (1580), а таксама 1-ю поўную слав. друкаваную «Астрожскую біблію» кірылічным шрыфтам (1581). Даследчыкі мяркуюць, што на змест, афармленне і прадмовы гэтых кніг паўплывала кнігавыдавецкая традыцыя Скарыны. Як і кн. «Быццё» ў перакладзе Скарыны, «Астрожская біблія» таксама пачынаецца з эстэт. ацэнкі: «Искони сотворил Бог небо и землю, земля же бе неплодна и не украшена». У канцы 16—17 ст. Вільня і мяст. Еўе (каля Вільні) заставаліся асяродкамі выдання біблейскіх кніг на царкоўнаслав. мове (нярэдка з прадмовамі і пасляслоўямі, напісанымі па-беларуску). Там былі надрукаваны у друкарні Мамонічаў — «Псалтыр з васследаваннем» (1586—95, 4 выд.), «Апостал» (1591—95, 3 выд.), «Псалтыр» (каля 1592, 2 выд.), «Евангелле вучыцельнае» (1595, 2 выд.), «Біблія» (т. зв. «Віленскія лісты» недадрукаваных экземпляраў «Астрожскай бібліі» Федарава, каля 1595), «Евангелле» (1600, 2 выд.); у друкарні Віленскага праваслаўнага брацтва — «Новы запавет з Псалтыром» (Вільня, каля 1596; 2 і 3 выд. ў Еўі, 1611 і 1623); «Псалтыр» (1632—42, 5 выд.), «Псалтыр з Часасловам» (1629), «Новы запавет з Псалтыром» (1641), «Евангелле» (Вільня — Еўе, 1644); у друкарні Траецкага манастыра ў Вільні — 7 выд. «Псалтыра» (1768—99), «Евангелле вучыцельнае» (1782), у друкарні Віленскай езуіцкай акадэміі — «Псалтыр» (1779). З 2-й чвэрці 17 ст. на тэр. цяперашніх Магілеўскай і Віцебскай абл. узнікаюць новыя цэнтры друкавання біблейскіх кніг. Друкарня Куцеінскага манастыра пад Оршай выпусціла ў свет «Апостал» (1632), «Новы запавет з Псалтыром» (1652), «Псалтыр» (1642; 2 выд. каля 1650). У друкарні С. *Собаля* ў Буйнічах пад Магілевам надрукаваны «Псалтыр» (1637—38; 4 выд. ў 2-й пал 17 ст.), «Апостал» (Магілеў, 1638). Магілеўская друкарня М. *Вашчанкі* выдала «Псалтыр» (1693—1711, 4 выд.), «Евангелле вучыцельнае» Кірылы Транквіліена Стаўравецкага (1697). У брацкай друкарні Магілева выйшлі ў свет «Псалтыр» (1738) і «Катэхізіс» (1757, 2 выд. 1761). Друкарня Супрасльскага манастыра надрукавала 5 выд. «Псалтыра» (1780—97) і «Евангелле вучыцельнае» (1700).

Да арт. **Біблія.** Тытульны ліст «Песні песням», выдадзенай Ф Скарынам. 1518

У канцы 18 ст. віленскія друкарні перадрукавалі з маскоўскіх выданняў «Евангелле» (1790), «Евангелле вучыцельнае» (1794), «Псалтыр» (1795; 2-е выд. 1796). З канца 18 ст. да 1917 на Беларусі біблейскія кнігі не друкаваліся.

Толькі уніяцкая царква выдала шэраг катэхізісаў, малітоўнікаў і падручнікаў, якія знаёмілі вернікаў са зместам Б. Заклікі да выдання Святога пісання па-беларуску з'яўляліся ў бел. друку ў 1906—17. Каталіцкая газета «Biełarus» («Беларус») знаёміла чытачоў з паасобнымі сюжэтамі і вобразамі Б. Першыя практычныя крокі да перакладу Новага запавету на сучасную бел. мову былі зроблены ў Зах. Беларусі і Польшчы. Баптысцкі прапаведнік Л. Дзекуць-Малей у пач. 1920-х гадоў пераклаў Евангеллі, якія ў 1926—30 выходзілі асобнымі брашурамі ў баптысцкім выд-ве «Компас» (Лодзь). А. *Луцкевіч* адрэдагаваў пераклады Дзекуць-Малея, а паасобныя кнігі Новага запавету пераклаў сам. Вынікам гэтай працы стала выданне па-беларуску «Новага запавету і Псалмаў» (Гельсінгфорс, 1931; 2-е выд. Лондан, 1948; 3-е выд. Таронта, 1985). У 1930 ксёндз В. Гадлеўскі пераклаў Новы запавет, які быў выдадзены лацінкай пад назвай «Чатыры Евангеллі і Апостальскія дзеі» (Вільня, 1939). У пач. 1950-х гадоў ксёндз П. Татарыновіч выдаў па-беларуску лацінкай «Святое Евангелле і Апостальскія дзеі» (Рым, 1954) са сваімі каментарыямі, а пазней — «Лісты святых апосталаў» (Рым, 1974). Бел. гісторык і філолаг Я. Станкевіч у 1950—60-я гады пераклаў на бел. мову Б. без некананічных кніг. «Новы запавет» выйшаў у Нью-Йорку ў 1970, а поўны пераклад пад назвай «Святая Біблія» ў 1973. У перакладзе першаіерарха Бел. аўтакефальнай праваслаўнай царквы архіепіскапа Мікалая выдадзена «Напрастольнае святое Евангелле» (Таронта, 1988). Выйшлі таксама паасобныя старазапаветныя кнігі ў перакладзе метадысцкага пастара Я. Пятроўскага «Генезіс» і «Кніга Эклезіяста, або прапаведніка» (Гэйнсвіле, 1984 і 1987). Час. «Беларусь» упершыню ў афіц. друку Беларусі апублікаваў 3 кн. Бібліі — «Паводле Лукі Святое Евангелле» і «Апакаліпсіс» (1990, № 1—12, перадрук з «Новага запавету і Псалмаў» у перакладзе Дзекуць-Малея і Луцкевіча), «Песню песняў» у перакладзе В. Сёмухі (1991, № 8—9). У 1990—92 час. «Спадчына» апублікаваў Евангеллі паводле Матфея, Лукі і Іаана ў перакладзе А. Клышкі. Беларуская Біблейская камісія пад старшынствам мітрапаліта Філарэта ўхваліла да друку перакладзенае на бел. мову В. Сёмухам Евангелле паводле Матфея ў складзе грэка-славяна-руска-бел. тэтраглоты (1990, на 4 мовах). Выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя» ўпершыню ажыццявіла перавыданне «Бібліі» Скарыны факсімільнага тыпу (т. 1—3, 1990—91).

Б. як збор разнастайных паводле жанру твораў (хронікі, кодэксы, паэтычныя медытацыі, маральна-філас. трактаты, прароцтвы, прытчы, афарызмы, агіяграфіі, гімны і інш.) — кніга гістарычная, гэта падкрэслівае яе другая назва — Святая гісторыя. Фундаментальным гістарызмам яна адрозніваецца ад класічнай культуры ант. цывілізацыі, творы якой пазначаны гарманічнай устойлівасцю і завершанасцю на ўсіх узроўнях — ад макракосмасу (вобразы паганскіх багоў як сімвалы закончанай дасканаласці прыроды, сусвету) да мікракосмасу (вобразы дасканалых герояў як сімвалы гарманічна сфарміраванага, «закончанага» чалавека). Біблейскія сюжэты і вобразы дэманструюць парыў ад небыцця да быцця, ад хаосу да гармоніі, ад злога пачатку да дабра, ад граху да пакаяння. Б.— першая кніга пра драматычны шлях станаўлення чалавечай духоўнасці, першая «фенаменалогія духа». Універсальнае значэнне Б. як гіст. крыніцы абумоўлена шматжанравасцю яе асобных частак-кніг, спалучэннем паэтычна-мастацкага, канкрэтна-гіст., філас.-рэфлексійнага і прагнастычна-прарочага пазнання. Б. пачынаецца з кн. Быццё, якая з'яўляецца сімвалічна-тэалагічным адлюстраваннем станаўлення Сусвету і чалавечага грамадства, а заканчваецца Апакаліпсісам — сімвалічным малюнкам канца гісторыі. Першая кніга апавядае пра станаўленне часу і прасторы, жыцця і яго «вянка» — чалавека, г. зн. пра ўзнікненне гісторыі. Апошняя кніга прарочыць канец гісторыі, малюе вобразы катастрафічнага «знясця» гістарычнага часу. У Б. выявіліся 3 этапы станаўлення гістарызму: эпіка-міфалагічны перыяд непасрэднага адзінства пазнання і быцця (Пяцікніжжа Майсея, кнігі Ісуса Навіна, Суддзяў, Руф і інш.); перыяд аналітычна-эмпірычны (хранікальны характар 4 кніг Царстваў, апалагетыка 2 кніг Дзеяў апостальскіх і інш.); этап станаўлення біблейскай філасофіі гісторыі (кнігі Іова, Еклезіяст, усе творы ў жанры прароцтваў). У аснове біблейскай філасофіі гісторыі — тэадыцэя (апраўданне жыцця і яго крыніцы — Бога перад тварам сусветна-гіст. зла); правідэнцыялізм, паводле якога гіст. падзеі, з'яўляючыся выяўленнем волі людзей на універсальна-касмічным узроўні, прадвызначаны божай воляю; антынамічнасць гісторыі, ход падзей якой спалучае свабоду чалавека выбіраць паміж дабром і злом і абсалютна добрую па сваёй сутнасці боскую неабходнасць; месіянства, веру ў прыход збавіцеля і яго царства на зямлі, упэўненасць у тым, што ёсць выбраныя, прызваныя Богам народы і асобныя людзі, якія аб'ектыўна выконваюць боскае прадвызначэнне; эсхаталагізм — перакананне ў тым, што гіст. працэс, які разгортваецца ў часе і прасторы, меў свой пачатак і будзе мець свой канец, завяршэнне. У эсхаталагізме — сутнасць біблейскага гістарызму, бо без уяўлення пра пачатак гісторыі і яе канчатковую мэту немагчыма ўспрыманне гісторыі. Паводле біблейскай дыялектыкі, драматычнае і катастрафічнае гіст. быццё, разгортванне падзей і паступальны рух жыцця ад ніжэйшых да больш высокіх узроўняў адбываецца праз барацьбу быцця і небыцця, пазначаных у этычным плане катэгорыямі дабра і зла, а ў сімвалічна-мастацкім аспекце — вобразамі святла і цемры. Першы раздзел кн. Быцця ўяўляе сабою метафарычны малюнак-сімвал дачалавечай, касмічнай гісторыі, якая пачалася з «будавання» Сусвету і супрацьстаяння святла і цемры, што дакладна зафіксавана ў стараслав. рэдакцыі Бібліі: «Вначале сотвори Бог небо и землю, земля же бе неплодна и не украшена» (Быццё 1,1, пераклад Ф. Скарыны). Першы акт стварэння Сусвету сімвалічна абазначаны словамі Б.: «І сказаў Бог: няхай будзе святло. І сталася святло. І ўбачыў Бог, што яно добрае,

Да арт. **Біблія.** Тытульны ліст Новага запавету і псалмаў, выдадзеных на беларускай мове ў Таронта (Канада). 1985.

Тытульны ліст **Бібліі**, выдадзенай на беларускай мове ў Нью-Йорку. 1973.

і аддзяліў Бог святло ад цемры». З гэтага акту пачаўся адлік гіст. часу, пазначаны рэфрэнам: «І быў вечар, і была раніца. дзень адзін» (следам — дзень 2-і, дзень 3-і» і г. д. да 6-га, завяршальнага «дня стварэння»). Аддзяленне «святла» ад «цемры» азначала сцвярджэнне дасканалага быцця, раздзяленне дабра і зла. На «семым» акце тварэння Бог «блаславіў» дасканалы Сусвет і на ім «спачыў». Закончылася хасмічная гісторыя. Гісторыя чалавецтва пачалася актам «грэхападзення» першых людзей, пранікненнем у жыцце злога пачатку. Адгэтуль пайшла драматычная барацьба дабра і зла, пад знакам якой праходзіла ўся зямная гісторыя. Яна была б немагчымай без гэтай барацьбы двух палярных пачаткаў. поўная перамога дабра азначала б завяршэнне гісторыі, перамога зла над дабром прывяла б да татальнай смерці, знікнення быцця. Першым актам гіст. драмы стала паўстанне Каіна, сына Адама, які з зайздрасці забіў свайго брата Авеля (кніга Быцця, 4, 1—12) Такім чынам вайна, а па сутнасці братазабойства, увайшла ў гісторыю чалавецтва і на тысячагоддзі стала адным з асн. гістарычных фактараў, спосабам вырашэння канфліктаў.

Большасць кніг Старога запавету з'яўляецца гісторыяй стараж. Ізраільска-Іудзейскай тэакратычнай дзяржавы і часткова іншых рэгіенаў Блізкага Усходу (Егіпет, Сірыя, шматлікія родаплемянныя саюзы і першабытныя дзяржавы Палесціны) у святле правідэнцыялісцкай і эсхаталагічнай канцэпцый быцця і культуры. Асаблівасцю Б. як помніка культуры з'яўляецца сінкрэтызм — адзінства рэальнасці і міфа, гісторыі і тэалогіі, гіст. фактаў і цудаў, філасофіі і паэзіі, даследавання і прароцтва, навук. і аксіялагічнага падыходаў да ацэнкі ідэй, фактаў, ідэалаў. Б. паўплывала на экзістэнцыялісцкую філасофію гісторыі. М. Бярдзяеў пісаў «Для мяне міф не есць нешта супрацьлеглае рэальнаму, наадварот, паказвае на самую глыбокую рэальнасць». З 19 ст ў крытычнай біблеістыцы вызначыліся дзве плыні: гістарычная (Э. Цэлер, Д. Штраус і інш.), якая не адмаўляе рэальнасці міфалагізаваных герояў Б. і яе асн. апавядальнай канвы, і міфалагічная плынь (Б Баўэр і інш.), паводле якой біблейскія персанажы (Аўраам, Ісаак, Якаў, Іосіф, Майсей, Аарон, Ісус Навін, Самсон і інш ), у т. л цэнтральны вобраз новазапаветнай часткі Б Ісус Хрыстос,— персанажы міфалагічныя

Біблейскія сюжэты, матывы, вобразы і сімвалы шырока выкарысталі сусв. літаратура, выяўленчае, тэатральнае і музычнае мастацтва, кінематограф. У бел літаратуры вобразная і сімвалічная сістэмы Б. выявіліся ў 16—18 ст. у творчасці Ф. Скарыны, М. Сарбеўскага, М. Сматрыцкага, І. Пацея, братоў Л. і С. Зізаніяў, А Філіповіча і універсальная — у паэзіі і аратарскай прозе Сімяона Полацкага. Біблейскія матывы сустракаюцца ў творчасці Я Купалы, З Бядулі, У. Караткевіча і інш. бел пісьменнікаў, у фальклоры (чарадзейныя казкі, абрадавыя песні, легенды), школьным і прыгонным тэатры 17—19 ст У сав гістарыяграфіі Б. не была прадметам комплекснага (агульнагіст., гісторыка-культурнага, археаграфічнага і філас.) даследавання. Яе фрагментамі часта карысталіся для псеўданавуковага выкрыцця «класавай прыроды» хрысціянства. Сучасны ўзровень сусв. біблеістыкі дазваляе падрыхтаваць навук. выданне Б. з фундаментальнымі каментарыямі.

*Літ* Никольский Н М Древний Израиль 2 изд М , 1922, Виппер Р Ю Возникновение христианской литературы М , Л., 1946; Фрэзер Дж Дж Фольклор в Ветхом завете Пер с англ М , Л 1981, Марковский И С Библейская археология. 2 изд. Саратов, 1948, Робертсон Дж. Первоначальное христианство Пер с англ М , 1930, Шупа С З гісторыі новабеларускіх перакладаў Бібліі // Весті Белорусского Экзархата 1990 № 4, Конан У Каля вытокаў духоўнасці // Беларусь 1990 № 1 *У М Конан*

**БІБЛІЯГРА́ФІЯ ГІСТАРЫ́ЧНАЯ**, дапаможная гіст. дысцыпліна, якая вывучае спісы, паказальнікі, каталогі, агляды кніг, артыкулаў і інш. публікацый, а таксама неапублікаваныя дакументы (дысертацыі, дэпанаваныя рукапісы і інш.) як крыніцы інфармацыі пра навук. і вучэбную літаратуру па гіст. навуках. У зборным сэнсе бібліяграфіяй называюць таксама самі гэтыя спісы, паказальнікі і г. д. (бібліяграфічныя крыніцы) або сукупнасць л-ры па пэўнай галіне, тэме, прадмеце. Як навук. дысцыпліна Б. г. ўключае. выяўленне і вывучэнне бібліягр. крыніц і на гэтай аснове ўстанаўленне рэпертуару наяўнай гіст. літаратуры; вызначэнне аптымальных прыемаў і метадаў пошуку неабходнай л-ры (у гэтым выпадку з'яўляецца часткай бібліягр. эўрыстыкі), асаблівасцей выкарыстання бібліягр. крыніц, найперш бібліятэчных каталогаў і картатэк; вывучэнне станаўлення і эвалюцыі бібліягр. апарату (прыкніжных спісаў, зносак, інш. спасылак на л-ру) гіст. твораў і крыніц, методыку яго крыніцазнаўчага і гістарыяграфічнага аналізу У больш шырокім плане пад Б. г. разумеюць усю навук. і практычную дзейнасць па зборы (уліку друкаванай прадукцыі), згортванні (бібліягр. апісанні) і распаўсюджванні (публікацыі, даведачна-бібліягр. абслугоўванне) інфармацыі пра гіст. літаратуру. Ад Б. г. трэба адрозніваць навук. апісанне рукапісаў, рукапісных кніг, архіўных фондаў, што складае прадмет камеральнай *археаграфіі*.

Б. г. ўзнікла ў Францыі і Германіі ў пач. 17 ст. ў выглядзе вял. друкаваных каталогаў па нац. і ўсеагульнай гісторыі (выдадзеная ў Лейпцыгу ў 1620 «Bibliotheca historica. .» П. Балдуана ўключала раздзелы «Moscovitica», «Sarmatia» і «Polonica», дзе пералічана каля 80 твораў па гісторыі гэтых краін, у т. л. кнігі Я. Длугаша, М Мяхоўскага, С. Герберштэйна). Аднак да пач. 18 ст., а ў Польшчы і Расіі да сярэдзіны 19 ст. Б. г. не вылучалася ў асобную галіну ведаў і л-ры, застаючыся пералікам імен і прац гісторыкаў накшталт пазнейшых біябібліягр. слоўнікаў. Падобны характар маюць і першыя працы Б. г у Польшчы і Расіі — «De scriptoribus historiae polonicae schediasma litterarium» С І. Хопэ (Dantisci, 1707) і «Schediasma litterarium de scriptoribus qui historiam politico-ecclesiasticam Rossiae scriptis illustrarunt» А. Селія (Revaliae 1736; рус. пер.· Каталог писателей, сочинениями своими объяснявших гражданскую и церковную российскую историю. М., 1815) У працах буйнейшых рус. і польскіх бібліёграфаў сярэдзіны 18 — 1-й пал. 19 ст. гіст. тэматыка служыць толькі элементам агульнага краіназнаўства (Ю А. Залускі, А. Д. Чарткоў), гісторыі л-ры і асветы (Г. Л. Х. Бакмейсцер, Ф. Я. Бянткоўскі, А. Б. Ёхер). Развіццё *крыніцазнаўства* прывяло да выдання першага ў расійскай навуцы крытычнага агляду крыніц і л-ры айчыннай гісторыі (Buhle J. G. Versuch einer kritischen Literatur der russischen Geschichte T 1 M , 1810), а ўдасканаленне структуры навук прац — да з'яўлення ў рус. гіст. літаратуры (1810-я гады) прыкніжных бібліягр. спісаў. Галіновая, у т. л. гіст., бібліяграфія пачала інтэнсіўна развівацца з сярэдзіны 19 ст. У 1861—84 у Пецярбургу выдаюцца штогоднікі П. П. і Б. П Ламбіных «Русская историческая библиография» (т. 1—10, л-ра за 1855—64); У. І. Мяжоў выпусціў пад такой жа назвай паказальнікі за 1865—76 (т. 1—8. Спб., 1882—90) і за 1800—54 (т. 1—3 Спб., 1892—93; выд не закончана). З'яўляюцца першыя бібліягр. манаграфіі «Крестьянский вопрос в России» Мяжова (Спб., 1865. Рэпрынт Leipzig, 1973), «Петр Великий в иностранной литературе» Р. І. Мінцлава (Спб., 1872) і інш. Да пач. 20 ст. ўсе большую ўвагу рус і польскіх бібліёграфаў прыцягвае славяназнаўчая і этнагр. тэматыка. З 1898 у час. «Университетские известия» (Кіеў) рэгулярна друкуецца крытыка-бібліяграфічны агляд прац па славяназнаўстве Ц. Д. Фларынскага. У 1909—18 Расійская АН выдала серыю штогоднікаў «Обозрение трудов по славяноведению» (у т. л. па гісторыі ўсх. славян), якая ахапіла айч і замежную л-ру за 1908—13 па гісторыі, археалогіі, этнаграфіі, філалогіі, гісторыі права і культуры. Адна за другой выходзяць працы Э. Каладзейчыка (Bibliografia słowianoznawstwa polskiego. Kraków, 1911. Рэпрынт: W-wa, 1981), Д. К. Зяленіна (Библиографический указатель русской этнографической литературы о внешнем быте народов России, 1700—1910 гг. Спб., 1913), Ф. Гавэлка (Bibliografia ludoznawstwa polskiego Kraków, 1914. Рэпрынт W-wa, 1977) Спробы наладзіць бягучую Б г. рабіліся ў Расіі з 1840-х гадоў, аднак стабільнага і поўнага ўліку дасягнуць не ўдалося. Адносна лепшымі, хоць недастаткова поўнымі, былі агляды У. С. Іконнікава ў *«Русской старине»* за 1870—1917 і спісы А. І. Малеіна ў «Известиях Археологической комиссии» за 1902—18.

У 1891—1914 у Кракаве выдадзена фундаментальная праца Л. Фінкеля «Bibliografia historii polskiej» (рэпрынт t. 1—3. W-wa, 1955), якая з вял. паўнатой улічвала л-ру па гісторыі Польшчы і Рэчы Паспалітай ад старажытнасці да 1815. Часопіс «Kwartalnik historyczny» («Гістарычны квартальнік», Львоў) з 1891 рэгулярна друкаваў спісы новых кніг і артыкулаў па ўсеагульнай, а з 1902 — і па польскай гісторыі

Савецкая Б. г. напачатку абмяжоўвалася праблемамі краязнаўства і гісторыі рэв. руху. Да найб. грунтоўных бібліягр. прац адносяцца «Восстание декабристов» М М Чанцова (М; Л, 1929 Рэпрынт Leipzig, 1974) і «Первая русская революция» (М., 1930 Рэпрынт. Leipzig, 1974). Задача бягучага ўліку вырашана ў пасляваен. гады. з 1947 выдаюцца штомесячныя бюлетэні новай гіст літаратуры (з 1976 пад назвай «Новая советская литература по общественным наукам. История, археология, этнография» і «Новая иностранная литература по общественным наукам История, археология, этнография»), з 1948 — новай л-ры пра Польшчу (з 1954 штомесяц; з 1990 пад назвай «Новая советская и иностранная литература по общественным наукам Польша»), а з 1950 — «Сводный бюллетень новых иностранных книг, поступивших в крупнейшие библиотеки СССР. Общественные науки» (з 1962, 6 разоў на год) Спроба стварэння шматтомнага паказальніка «История СССР» не зусім атрымалася без уліку ратапрынтных макетаў надрукаваны толькі 2 тамы (М., 1956—58), якія ахапілі л-ру за 1917—52 па дарэв. перыядзе, і вып. 4 тома 3 «СССР в годы Великой Отечественной войны» (кн.[1]-2. М., 1977—81, л-ра за 1941—67). Вялікая ўвага аддавалася бібліяграфіі крыніц «История советского общества в воспоминаниях современников» (ч. 1—2. М., 1958—67; л-ра за 1917—57), «Советское общество в воспоминаниях и дневникак» (т 1—2. М., 1987—90, выд. працягваецца; л-ра з 1958), «История дореволюциоиной России в дневниках и воспоминаниях» (т. 1—5. М., 1976—89). У 1961—75 у серыі паказальнікаў дакумент. публікацый выйшла 3 тамы. «Великая Октябрьская социалистическая революция», «Советская страна в период гражданской войны 1918—1920» і «Советская страна в период восстановлення народного хозяйства (1921—1925 гг.)». Паслядоўна, хоць і з вял перапынкам паміж канцом уліковага перыяду і выхадам з друку, выдаваліся паказальнікі па гістарыяграфіі і ўсеагульнай гісторыі. «История исторической науки в СССР» ([т. 1—2] М, 1965—80; выд. не закончана), «Древняя Греция и Древний Рим» А. І. Варанкова (М., 1961; л-ра за 1895—1959), «История средних веков» (т. 1—2. М., 1968—84; л-ра за 1918—67), «Новая история» (ч 1—2. М., 1980—88; л-ра за 1917—40). Лепшыя з галіновых паказальнікаў па паўнаце і апаратыўнасці — «Советская археологическая литература» ([т. 1—8]. Л., 1959—89, л-ра за 1918—81) і «Советское славяноведение» (М., 1963—90; л-ра за 1918—87). У апошнія дзесяцігоддзі ўзнікла бягучая нацыянальная Б. г. ў Літве і на Украіне у Літве выйшлі 2 тамы «Lietuvos TSR istorijos bibliografija» за 1940—65 і 1966—70 (Vilnius, 1969—80), у Кіеве з 1971 выдаецца штогоднік «Історія Української РСР» (улік л-ры з 1968)

Ля вытокаў краевай і краязнаўчай бібліяграфіі Беларусі ляжыць традыцыя выдаваць кнігагандлёвыя і бібліятэчныя каталогі. У 1788 польскі выдавец і гандляр М. Гроль выпусціў «Katalog niektórych książek polskich», дзе пералічаны польскія, лац, нямецкія і інш кнігі, якія пастаўляліся на продаж падчас кантрактаў і кірмашоў у Мінску, Навагрудку, Нясвіжы, Зэльве, Свіслачы і Гродне. У б-цы Віленскага ун-та з 1805 пад кіраўніцтвам Г. Э Гродэка вялася работа па каталагізацыі фондаў, складзены 4-томны рукапісны каталог. З сярэдзіны 19 ст шырока выдаюцца каталогі публічных і прыватных б-к, найбольшы з якіх складзены Д. Сталыпіным і Ф. М Цабранскім (Систематический каталог Русского отделения Виленской публичной библиотеки Ч 1—2. Вильна, 1879 — 80; 1-е — 4-е приб. Вильна, 1888—1907). У 1840—70-я гады ў працах Ю. І. Крашэўскага, М. П. Пагодзіна, П. А. Гільтэбранта закладваецца аснова навук. вывучэння старадрукаванай бел. кнігі, публікуюцца спісы выданняў 16—18 ст З канца 19 ст Беларусь стала прадметам даследаванняў рус. бібліеграфаў. У свет выйшлі працы «Полесье. Библиогр. материалы по истории, географии, статистике, этнографии и экономическому состоянию Полесья» З. М. Пенкінай (Спб., 1883) і «Сборник библиографических материалов для географии, истории, истории права, статистики и этнографии Литвы» С Балтрамайціса (1891; 2 выд. Спб., 1904). Уласна бел. бібліяграфія ў пачатку 20 ст. у 1908—15 газ. ***«Наша ніва»*** і дадатак да яе «Беларускі каляндар» друкуюць працы Р Зямкевіча, спісы кніг першых бел. выдавецтваў. Адиак станаўленне нац. бібліяграфіі Беларусі адбываецца ўжо ў сав. перыяд, у 1922 утвораны асн. бібліягр. ўстановы — ***Бібліятэка нацыянальная Беларусі*** і Кніжная палата. З 1924 яны рэгулярна выпускаюць бягучы «Летапіс беларускага друку» (з 1932 «Летапіс друку БССР», з 1992 «Летапіс друку Беларусі»), а ў 1926—28, сумесна з ***Інстытутам беларускай культуры***, разгарнулі падрыхтоўку шматтомных «Матэрыялаў да беларускай бібліяграфіі», з якіх надрукаваны толькі 2 тамы — А. А. Шлюбскага па этнаграфіі і С. А. Дубінскага па археалогіі. З 1960 выдаецца бібліягр. бюлетэнь ***«Новыя кнігі Беларусі»*** Пастунова разгарнуўся бібліягр. ўлік небеларускай л-ры пра Беларусь. У «Летапіс друку БССР» з 1946 уключаны раздзел «Беларуская ССР у друку СССР» (з 1965 «Беларуская ССР у друку СССР і замежных сацыялістычных краін», у 1982—91 выходзіў асобным выданнем як квартальнік, з 1992 зноў як раздзел «Летапісу» пад назвай «Беларусь у друку зарубежных краін»). Дапаўненнем да яго служыць «Беларуская ССР у друку сацыялістычных краін, 1946—1965» М. А. Васілеўскай (ч. 1—2 Мн., 1966—68) Гэтым жа аўтарам падрыхтавана серыя паказальнікаў польскай і замежнай л-ры «Белоруссия в печати XIX — начала XX столетия» (ч 1—2. Мн, 1980—83), «Белоруссия в печати [16—18] столетия» (Мн, 1985), «Белоруссия в печати 1917—1939 гг.» (ч 1—2. Мн., 1990), «Белоруссия в зарубежной печати 1940—1945 гг.» (Мн., 1992). Рэпертуар рус. кніг адлюстраваны ў дапаможніку А А Сакольчыка [Дооктябрьская книга на русском языке о Белоруссии (1768—1917 гг.) 2-е выд Мн., 1976]. Значнае развіццё ў рэспубліцы атрымала бібліяграфія навук. і навуказнаўчай літаратуры. З 1956 выдаваўся «Указатель изданий Академии наук БССР» (выйшлі тамы за 1929—86; назва мянялася), выдадзены паказальнікі «Научные съезды, конференции и совещания в БССР» за 1919—68 (Мн., 1970. Склад. А. Д. Васілеўская і Л І. Збралевіч) і за 1969—78 (Мн., 1979. Склад. Г. Д. Шаблінская), «Наука и научно-исследовательская работа в Белоруссии (1918—1973 гг.)» А. Д. Васілеўскай і Н. Я Віталевай (т. 1—5. Мн., 1975—78) і як працяг яго аднайменныя гадавікі «Академия наук БССР» А. Д. Васілеўскай (Мн., 1988; л-ра за 1974—87), «Докторские и кандидатские диссертации по историческим наукам БССР, 1944—1987 гг.» У. М. Міхнюка і Л. М Навіцкай (Мн., 1988).

Сучасная міжнар Б г прадстаўлена гал. чынам бягучымі паказальнікамі Гіст. навукі ў цэлым адлюстраваны ў выбарачным па змесце, але зручным для агульнага знаёмства з л-рай штогодніку «International bibliography of historical sciences», які з 1930 выдае Міжнар камітэт гіст. навук (улік л-ры з 1926) Кнігі, артыкулы і дысертацыі па новай і навейшай гісторыі (акрамя гісторыі ЗША і Канады) улічвае квартальны рэфератыўны час. «Historical abstracts», які выдаецца ў ЗША з 1955, з 1971 у дзвюх серыях «А» — па новай (1450—1914) і «В» — па навейшай (з 1914) гісторыях З 1975 у Нью-Йорку выходзіць штогоднік «Humanities index» — спіс артыкулаў з англамоўнай перыёдыкі па гісторыі і гуманітарных навуках. Найбольш значным рэтраспектыўным міжнар. выданнем з'яўляецца фундаментальны каталог сярэдневяковых наратыўных крыніц «Repertorium fontium historiae medii aevi» (vol. 1—5. Romae, 1962—84, выд працягваецца) — перапрацоўка класічнай працы ням. бібліеграфа А Потхаста. Найважнейшыя гіст. часопісы ўсіх краін свету пералічаны ў «Historical periodicals directory» (vol. 1—5 Santa Barbara; Oxford, 1981—86). Вядучай формай нац. Б. г. у замежных краінах з'яўляецца штогадовы паказаль-

нік новай л-ры па айч. гісторыі у Германіі «Jahresberichte für deutsche Geschichte», у Францыі «Bibliographie annuelle de l'histoire de France», у Польшчы «Bibliografia historii Polski». Польская Б. г. вядомая таксама вял. рэтраспектыўнымі працамі, якія практычна цалкам ахопліваюць рэпертуар нац. гіст. літаратуры, напрыклад, «Bibliografia historii Polski XIX wieku» пад рэд. С. Плоскага (t. 1—2, Wrocław etc., 1958—83; выд. працягваецца). Іх дапаўняюць паказальнікі мемуараў, дзённікаў і лістоў (Maliszewski E. Bibljografja pamiętników polskich i Polski dotyczących. W-wa, 1928; Skrzypek J. Bibliografia pamiętników polskich do 1964 r. Wrocław etc., 1976). Усю гісторыю Польшчы да 1945 ахоплівае, але больш выбарачна, «Bibliografia historii Polski» пад рэд. Х. Мадуровіч-Урбанскай і В. Бяньkоўскага (t. 1—3. W-wa, 1965—78). Польскае славяназнаўства прадстаўлена выданнем «Bibliografia polskich prac z zakresu slawistyki» за 1968—72 (t. 1—2. W-wa, 1973) і за 1972—81 (t. 1—2. W-wa, 1983).

Пра біябібліягр. слоўнікі і бібліяграфію гіст. даведнікаў гл. ў арт. *Энцыклапедыі і даведнікі*

**Бібліяграфічныя крыніцы па гісторыі Беларусі.** Агульнага паказальніка па гісторыі Беларусі не існуе. Адзіным прыкладам такога роду з'яўляецца «Гісторыя БССР: Тэматычны паказ. савецкай літаратуры (1945—1958 гг.)» У. А. Цітка, А. П. Ігнаценкі, Я. І. Шапчыца (Мн., 1959), аднак каштоўнасць выдання зніжаецца з-за нязначнага храналагічнага ахопу л-ры і адсутнасці працягу. Дакастрычніцкай гісторыі прысвечана «Бібліяграфія па гісторыі Беларусі. Феадалізм і капіталізм» М. Г. Крэканэ і Сакольчыка (Мн., 1969). Літаратура па археалогіі ўлічана ў «Бібліяграфіі па археалогіі Беларусі і сумежных краін» Дубінскага (Мн., 1933), працяг за 1932—75 — «Археология Белоруссии» Т. М. Каробушкінай (Мн., 1988). Этнаграфія прадстаўлена кнігамі Шлюбскага «Матэрыялы да беларускай бібліяграфіі. Т. 4. Этнаграфія» (Мн., 1927) і М. Я. Грынблата «Беларуская этнаграфія і фалькларыстыка: Бібліягр. паказ. (1945—1970)» (Мн., 1972); пра іншыя народы Беларусі не страцілі значэння «Библиографические материалы о татарах Польши, Литвы, Белоруссии и Украины» Л. К. Крычынскага (Пг., 1917) і «Систематический указатель литературы о евреях на русском языке...» (Спб., 1893). Літаратуру за 1825—1975 пра пісьмовыя крыніцы 14—18 ст. як помнікі мовы ахопліваюць паказальнікі А. Д. Васілеўскай і інш. «Беларускае мовазнаўства» (Мн., 1967—80). Для вывучэння права і культуры ВКЛ карысныя з'яўляюцца дапаможнікі Ф. І. Леантовіча (История русского права. Вып. 1. Литература истории русского права. Варшава, 1902. Рэпрынт: Leipzig, 1974), Я. Л. Неміроўскага і Л. А. Осіпчык (Францыск Скарына: Жыцце і дзейнасць. Мн., 1990), каталог выданняў Віленскай акад. друкарні (Čepienė K., Petrauskienė I. Vilniaus akademijos spaustuvės leidiniai 1576—1805: Bibliografija. Vilnius, 1976). Палітычная гісторыя сярэдзіны 17 ст. адлюстравана ў кн. «Polska w okresie drugiej wojny północnej, 1655—1660» (T. 3. Bibliografia. W-wa, 1957). Для эпохі падзелаў Рэчы Паспалітай бібліягр. дапаможнікам служыць агляд замежных твораў пра Кацярыну II, што выдадзены як т. 12 «Истории Екатерины Второй» В. А. Більбасава (ч. 1—2. Берлин, 1896). Беларусь у складзе Расійскай імперыі прадстаўлена гал. чынам паказальнікамі пра Айч. вайну 1812, паўстанні 1830—31 і 1863—64 (гл. ў адпаведных артыкулах); паўнатой і аналізам матэрыялаў вылучаецца праца «Bibliografia powstania styczniowego» Э. Казлоўскага (W-wa, 1964). Бібліяграфія Сав. Беларусі таксама небагатая: «Савецкая Беларусь ва ўспамінах сучаснікаў» Л. М. Прыселкавай (Мн., 1973), праца пра польскую кампанію 1920 (Libert F. Materjały do bibljografji wojny polsko-sowieckiej. W-wa, 1935), «Беларуская ССР у Вялікай Айчыннай вайне Савецкага Саюза (1941—1945 гг.)» Р. М. Чыгіровай і Э. І. Ляўко (Мн., 1980; л-ра за 1941—71), «Беларуская ССР у Вялікай Айчыннай вайне Савецкага Саюза (1941—1945 гг.)» Э. І. Ляўко, С. А. Пугачовай, З. А. Сядой (Мн., 1990; л-ра за 1972—85) і бюлетэнь «Беларуская ССР у гады Вялікай Айчыннай вайны Савецкага Саюза (1941—1945 гг.)», які выдаваўся ў 1970—82. Часткова іх дапаўняе праца. К. Шчапаньскай і Б. Зялінскай: «Bibliografia wojny wyzwoleńczej narodu polskiego, 1939—45. Problematyka wojskowa. Materiały z lat 1939—67» (W-wa, 1973). З 1992 выдаецца бягучы паказальнік «Новая літаратура па гісторыі і гістарычных навуках Беларусі» (улік л-ры з 1990). Замежная (акрамя польскай) л-ра спецыяльным прадметам бібліягр. ўліку не стала. Некаторай кампенсацыяй могуць служыць выданні Беларускага інстытута навукі і мастацтва [«Янка Купала і Якуб Колас на Захадзе» (В. і З. Кіпелі, 1985), «Беларуская дзяржаўнасць» (В. і З. Кіпелі, 1988), «Пяць стагоддзяў Скарыніяны, XVI—XX» (В. Тумаш, 1989)], а таксама: Гольдберг А. Л., Яковлева И. Г. Дореволюционные издания по истории СССР в иностранном фонде Государственной Публичной библиотеки им. М. Е. Салтыкова-Щедрина. Систематический указатель. Вып. 1—3. 2 изд. Л., 1982—86 (выд. працягваецца); Lorentowicz J. La Pologne en France. Essai d'une bibliographie raisonée. T. 1—2. Paris, 1935—38; Vakar N. P. A bibliographical guide to Belorussia. Cambrige (Mass.), 1956.

Спецыфічнай бібліягр. крыніцай з'яўляюцца нац. зводныя каталогі — рэтраспектыўныя паказальнікі ўсей друкаванай прадукцыі пэўнай краіны і (або) на пэўнай мове. Каталог «Кніга Беларусі, 1517—1917» (Мн., 1986) уключае кірылічныя кнігі 16—18 ст., выдадзеныя на тэр. сучаснай Беларусі, у Вільні, Еўі, Заблудаве і Супраслі, а таксама пражскія выданні Ф. Скарыны; кнігі і перыёдыку 19 — пач. 20 ст. на бел. мове незалежна ад месца выдання; рус. кнігі грамадз. друку, якія выдадзены на Беларусі ў 1777—1917. Прадукцыя бел. друкароў 17 ст., якія працавалі ў Кіеве і Львове, адлюстравана ў каталогу Я. Запаскі і Я. Ісаевіча «Пам'ятки книжкового мистецтва: Каталог стародруків, виданих на Україні 1574—1800» (кн. 1—2. Львів, 1981—84). З 1979 у Маскве выдаецца «Сводный каталог и описание старопечатных изданий кирилловского и глаголического шрифтов» (выйшлі выпускі з апісаннем выданняў друкарань Ш. Фіоля ў Кракаве, Нясвіжскай, В. Цяпінскага, Н. Тарасіева і Н. Цімафеева ў Маскве). З рус. нац. бібліяграфіі асабліва важныя для гісторыка беларусазнаўчы «Сводный каталог русской книги гражданской печати XVIII века, 1725—1800» (т. 1—6. М., 1962—75), «Сводный каталог книг на иностранных языках, изданных в России в XVIII веке, 1701—1800» (т. 1—3. Л., 1984—86; выд. працягваецца) і «Сводный каталог русской нелегальной и запрещенной печати XIX века», які выйшаў у 2 серыях — «Книги и периодические издания» (2 выд. Ч. 1—3. М., 1981—82) і «Листовки» (ч. 1—3. М., 1977). Рыхтуюцца зводныя каталогі рус. кніг грамадз. друку 1801—1917. У Літве працуюць над каталогам кніг, перыёдыкі, артыкулаў і рукапісаў, якія з'явіліся на тэр. Літвы або на літ. мове, а таксама якія прысвечаны або маюць дачыненне да Літвы. Выдадзены тамы з серыі «Кнігі на літоўскай мове» за 1547—1861 і часткова за 1862—1904 (Lietuvos TSR bibliografija. Ser. A. Knygos lietuvių kalba. T. 1; t. 2, kn. 1. Vilnius, 1969—85). У Польшчы рэтраспектыўная нац. бібліяграфія мае даўнюю традыцыю, што звязана з дынастыяй бібліеграфаў К., С. і К. Эстрайхераў. Галоўная іх праца «Bibliografia polska» (выдавалася ў Кракаве ў 1872—1951 у 4 серыях, усяго 38 тамоў) ахоплівае выданні 15—19 ст. на польскай мове, якія выйшлі ў Польшчы і за яе межамі; на інш. мовах, надрукаваныя ў Польшчы; замежныя выданні, якія датычаць Польшчы або палякаў; кнігі польскіх аўтараў, што выдадзены за межамі Польшчы ў перакладах на інш. мовы. З 1959 таксама ў Кракаве К. Эстрайхерам-унукам выдаецца пад загалоўкам «Bibliografia polska XIX stulecia» — дапоўненае перавыданне адпаведных серый «вялікага Эстрайхера». У 1986 пачалося выданне шматтомнага каталога «Bibliografia polska 1901—1939».

**Бібліяграфія бібліяграфіі:** История СССР. Аннотир. указ. библиогр. пособий, опубл. на рус. яз. с начала XIX в. по 1982 г. Ч. 1—3. 3 изд. М., 1983—85; Кандель Б. Л. История зарубежных стран. Библиогр. рус. библиогр., опубл. с 1857 по 1965 г. М., 1966; История зарубежных стран. Аннотир. указ. сов. библиогр. пособий, 1966—1985 гг. Л., 1989; Почепко Г. П., Фролова И. И. История зарубежных стран (Европа, Америка, Австралия). Библиогр. иностр. библиогр. М., 1967; Титова З. Д. Этно-

графия Библиогр рус библиогр по этногр народов СССР (1851—1969) М, 1970, Bestermann Th History and geography A bibliography of bibliographies Vol 1—4 Totowa (New Jersey), 1972, Bruha J, Pechalová Z Bibliografie historickych bibliografii Praha, 1982 Па сумежных з гісторыяй навуках Юридическая литература Аннотир указ отеч библиогр пособий, изд в 1831—1970 гг М, 1972, Философские науки, Социология Аннотир указ отеч библиогр пособий на рус яз, опубл с 1858 по 1985 гг М 1987, Экономика СССР Аннотир указ отеч библиогр пособий за 1817—1977 гг 2 изд М, 1979, Литература и фольклор народов СССР Указ отеч библиогр пособий и справ изд, 1926—1970 М, 1975, Острой О С Изобразительное и прикладное искусство Библиогр рус библиогр М 1969, Czachowska J, Loth R Przewodnik polonisty Bibliografie Słowniki Biblioteki Muzea literackie 3 wyd Wrocław etc 1989

Агульная бібліяграфія бібліяграфіі: Збралевич Л И, Федулова С В Библиография белорусской советской библиографии 1922—1961 Указ библиогр материалов, изд в БССР Мн, 1963, Рачек З Г, Седая З А Библиографические пособия Белорусской ССР, 1962—1973 Указ Мн, 1980, Сокурова М В Общие библиографии русских книг гражданской печати 1708—1955 Аннотир указ 2 изд Л, 1956, Андреева Н Ф, Машкова М В Русская периодическая печать (Общие и отрасл библиогр указ, 1703—1975) Аннотир указ М, 1977, Масанов Ю И, Ниткина Н В, Титова З Д Указатели содержания русских журналов и продолжающихся изданий 1755—1970 гг М, 1975 [рэпрынт з дадаткамі за 1971—78 Newtaville (Mass) 1979], Указатели содержания русских дореволюционных газет Библиогр указ Л, 1986, Hahn W Bibliografia bibliografij polskich do 1950 r 3 wyd Wrocław etc, 1966 Sawoniak H Bibliografia bibliografii polskich 1951—1960 Wrocław etc, 1967 Бягучы ўлік новай бібліягр прадукцыі ажыццяўляўся ў штогадовых выданнях на Беларусі «Паказальнік бібліяграфічных дапаможнікаў БССР» і «Указатель неопубликованных библиографических списков и картотек, составленных библиотеками Белоруссии», у СССР «Библиография советской библиографии», у Польшчы «Bibliografia bibliografii polskich» Больш падрабязна гл Кандель Б Л Отечественные указатели библиографических пособий Библиогр указ 2 изд Л, 1989

*Літ* Симановский И Б Белорусская советская библиография Ч 1 Мн 1965, Шапиро А Л Библиография истории СССР М 1968, Сороковська С В Українська радянська історична бібліографія Київ, 1980, Иениш Е В Библиографический поиск в научной работе Справ пособие путеводитель М, 1982, Лявончыкаў В Е Беларуская бібліяграфія Агульны курс Мн, 1991, Парфенов И Д Основы исторической библиографии М, 1990, Langlois Ch V Manuel de bibliographie historique Fasc 1—2 2 ed Paris, 1901—04 (рэпрынт Graz, 1968), Czachowska J, Loth R Bibliografia i biblioteka w pracy polonisty Wrocław etc, 1977, Starnawski J Warsztat bibliograficzny historyka literatury polskiej (Na tle dyscyplin pokrewnych) 3 wyd Warszawa, 1982, Poulton H J The historian's handbook A descriptive guide to raference works Norman (Oklahoma), 1972 Feldmann R Wie finde ich Literatur zur Geschichte Berlin, 1987

*В В Антонау*

**БІБЛІЯТЭ́КА БАГУСЛА́ВА РАДЗІВІ́ЛА** ў Слуцку. Існавала ў 1-й пал 17 ст Ёсць меркаванні, што ў яе ўвайшла частка кнігазбору кн Алелькавічаў У 1668 перададзена ў Кенігсбергскую б-ку Фрыдрыха Вільгельма Зборгся 2-томны «Каталог кніг завяшчаных бібліятэцы Багуславам Радзівілам у 1668 годзе» (на лац мове, Кенігсберг, 1673) У «Каталогу » названы 9 рукапісных і 362 друкаваныя кнігі, выдадзеныя ў Вільні, Кіеве, Празе, Базелі, Франкфурце, Вітэнбергу, Цюрыху, Парыжы, Рыме, Венецыі, Балоны, у т л 15 інкунабул Аснову кніжнага фонду б-кі склалі выданні 16—17 ст на лац (313 кніг), ням і французскай мовах пераважна свецкага зместу Амаль палавіна з іх — творы антычных аўтараў, 10 выданняў па мастацтве, кнігі па архітэктуры Значная частка кніг — па геаграфіі і прыродазнаўстве («Касмаграфія» С Мюнстэра, выд ў Базелі ў 1572 і 1598, у якой прыводзілася апісанне Польшчы і ВКЛ), медыцыне, астраноміі, матэматыцы, багаслоўі (41 кніга), філасофіі (63 кнігі)

*В А Цыбуля*

**БІБЛІЯТЭ́КА БРАТО́Ў КАЛІНО́ЎСКІХ,** збор кніг бел рэвалюцыянераў-дэмакратаў В. *Калиноускага* і К *Калиноускага*, каштоўная крыніца для вывучэння іх навук інтарэсаў і светапогляду Сталае фарміраванне б-кі пачалося пасля пераезду Каліноўскіх у Пецярбург (1856, першыя кнігі маглі быць набыты і раней) Да 1864 б-ка знаходзілася на прыватнай кватэры Каліноўскіх у Пецярбургу, налічвала некалькі соцень кніг на бел ,рус ,польскай,лац ,ням ,французскай мовах па гісторыі, філасофіі, мовазнаўстве, юрыспрудэнцыі Беларусі, Польшчы і інш краін, творы мастацкай л-ры Асноўным тэматычным стрыжнем, вакол якога фарміравалася б-ка, была гісторыя ВКЛ Была палемічная л-ра 16—17 ст, выданні соймавых выступленняў дзярж і царк дзеячаў таго часу, каралеўскія і гетманскія універсалы і інш, у т л «Смерць Сапегі» С Тупіка (Вільня, 1667), «Праўдзівая рэляцыя аб навагрудскай дыспутацыі» (б м, б г), «Трыбунал Вялікага княства Літоўскага» (б м, 1793), «Прамова пінскага пасла Кужанецкага на сойме 1793 года» (б. м, б г), «Вянец бессмяротнасці З нагоды смерці Кацярыны Радзівіл» Вітанскага (Вільня, 1643) і інш Значная частка кніг, сабраных Каліноўскімі, была выдадзена на тэр Беларусі і Літвы у Вільні, Полацку, Магілеве, Віцебску, Гродне, Оршы і інш Мастацкая л-ра была прадстаўлена творамі ўраджэнцаў Беларусі С. Ягадынскага [1590(?) — 1644(?)], Ф Князьніна (1750—1807), польскага паэта Ц. Норвіда (1821—83) У б-цы былі таксама апублікаваны ў 1642 у Торуні унікальны твор на старабел мове «Жартоўныя трагедыі» (захоўваецца ў Цэнтр навук б-цы АН Украіны у Кіеве) У зборы Каліноўскіх былі бібліяграфічныя працы па гісторыі ВКЛ і Рэчы Паспалітай «Бібліяграфічныя кнігі» І Лялевеля (т 1—2 Вільня, 1823—26), «Бібліяграфічна-гістарычны нарыс літаратуры і навукі ў Польшчы» А Ёхера (т 1—2 Вільня, 1840—42), «Гісторыя польскай літаратуры», прадстаўленая апублікаванымі работамі Ф Бянткоўскага (т 1—2, Варшава, Вільна, 1814) Было сабрана таксама нямала рукапісаў (арыгіналаў і копій), што адносіліся да гісторыі ВКЛ і Рэчы Паспалітай Лес б-кі пасля смерці братоў Каліноўскіх (1862 і 1864) не вывучаны Па просьбе польскага гісторыка, дырэктара б-кі імя Асалінскіх у Львове А Бялеўскага быў складзены каталог (няпоўны), у якім зафіксавана 230 кніг (захоўваецца ў б-цы імя Асалінскіх у Вроцлаве) Частка кніг з аўтографамі В Каліноўскага выяўлена ў Публічнай б-цы імя Салтыкова-Шчадрына ў Санкт-Пецярбургу Рукапісы са збору Каліноўскіх былі прададзены ў пач 1870-х гадоў у Варшаве, далейшы іх лес невядомы

*Літ* Шалькевіч В Бібліятэка Віктара Каліноўскага // Голас Радзімы 1992 5 і 12 сак

*В Ф Шалькевіч*

**«БІБЛІЯТЭ́КА ВАРША́ЎСКА»** («Biblioteka Warszawska»), польскі навук -літаратурны штомесячнік Выдаваўся ў 1841—1914 у Варшаве на польскай мове Выйшла 295 тамоў (кожны том складаўся з 3 сшыткаў) Да заснавання час «Атэнэум» (1876) быў адзіным у Варшаве навук выданнем энцыклапедычнага характару Друкаваў працы па гісторыі, філасофіі, этнаграфіі, л-ры, мастацтву, геаграфіі, прам-сці, біяграфіі польскіх і зарубежных дзеячаў, хроніку, крытычныя артыкулы, агляды перыяд. друку, бібліягр звесткі Змяшчаў таксама артыкулы па гісторыі, фальклоры, этнаграфіі, геаграфіі і гаспадарцы Беларусі Сярод матэрыялаў, якія маюць дачыненне да гісторыі Беларусі «Навагрудак (Успаміны)» (1841, т 2) Л Вайніловіча, «Помнікі мовы і польска-літоўскага заканадаўства ў XIV стагоддзі і наступных» (1854, т 2) А Ёхера, «Археалагічная паездка па Віленскай губерні» (1855, т 2—4) А Кіркора, «Да пытання выбрання Жыгімонта 1-га ў Літве і Польшчы» (1876, т 2) К Пулаўскага, «Першая вайна Рэчы Паспалітай з Вялікім княствам Маскоўскім пры Баторыі» (1892, т 2, ч 1) К Гурскага, «Генеральная канфедэрацыя і паспалітае рушэнне ў 1812 г» (1896, т 1—2) А Рэмбоўскага, «Землскія начальнікі ў Паўночна-заходнім краі» (1904, т. 1, ч 2) Б Боўфала, «Віленская куратория (1803—1823)» (1904, т 3) Ю Каленбаха, «Рымска-каталіцкае духавенства» [1906, т 1—2, дадатак «Praca» («Праца»), № 3—4] і «Вітаўт — князь Літоўскі (да пяцісотай гадавіны Гарадзельскай уніі)» (1913, т 2) А Прахаскі, «Літва напярэдадні вялікай вайны 1812 г.» (1906, т 4) і «Літоўская канфедэрацыя ў 1812 г» (1910, т 3) Я Івашкевіча, «Каталіцкі касцел пад кіраваннем Кацярыны II (у час першага падзелу 1772—1773)» (1909, т 1) і «Замах на Станіслава Аўгуста (у святле ватыканскіх крыніц)» (1911, т 1) М Лера-

та, «Беларусь і беларусы» [1910, т. 1, дадатак «Praca» («Праца»), № 1—2] П. Зубовіча, «Трыста гадоў таму назад (вайна польска-маскоўская 1609—1618)» (1911, т 1) Т Корзана Этнаграфіі, фалькларыстыцы і гаспадарцы Беларусі прысвечаны публікацыі «Пра ўрочышчы і звычаі пінскага люду, а таксама пра характар яго песні» (1852, т. 4; 1853, т. 1) Р. Зяньковіча; «Землеробчыя абрады» (1867, т. 2), «Звычаі народа з ваколіц Тыкоціна і Бельска» (1868, т. 1), «Пчалярскія, паляўнічыя і землеробчыя забабоны» (1876, т 4) З. Глогера; «Аб асушэнні палескіх (пінскіх) балот» (1880, т. 2, ч. 4, без пазначэння аўтара). Змешчаны рэцэнзіі на працы. К. Тышкевіча («Пра курганы на Літве і Заходняй Русі») Ф. Сабяшчанскага (1869, т. 3), Гурскага «Гісторыя польскай кавалерыі», Прахаскі «Аб сапраўднасці пісем Гедзіміна», І. Даніловіча «Кодэкс Напалеона ў параўнанні з польскім і літоўскім правам» невядомых аўтараў (1896, т. 1, ч. 1; 1906, т. 1, ч. 1).

*А Ф Літвіновіч*

**БІБЛІЯТЭ́КА ДЗЯРЖА́ЎНАЯ РАСІ́ЙСКАЯ** ў Маскве, нацыянальная бібліятэка Расіі, адна з буйнейшых бібліятэк свету, навукова-даследчы, метадычны і каардынацыйны цэнтр па праблемах кнігазнаўства, бібліяграфіі, бібліятэказнаўства, культуры.

Заснавана ў 1862 у складзе Маскоўскага публічнага Румянцаўскага музея Атрымлівала абавязковы экземпляр усіх расійскіх, а пазней сав. выданняў. Значна папоўнілася за кошт нацыяналізаваных пасля Кастр рэвалюцыі прыватных, царкоўна-манастырскіх і некаторых дзярж збораў З 1924 Расійская публічная б-ка імя У. І. Леніна, з 1925 Дзярж. б-ка СССР імя Леніна, з 1992 — Б. дз. р. У фондах б-кі больш за 40 млн. экз. друк. адзінак на 247 мовах (1992). У аддзеле рукапісаў захоўваюцца помнікі 6—20 ст. (многія зборы маюць каталогі, апісанні), у т л. каля 60 славяна-рус. рукапісных кніг 11—13 ст., сярод якіх Архангельскае евангелле 1092, Марыінскае евангелле (або Афонскае) пач. 11 ст., частка *Супрасльскага рукапісу* 11 ст., Дабрылава евангелле 1164 з мініяцюрамі евангелістаў і ўкладным запісам Івана IV, а таксама больш позніх царкоўна-рэлігійныя рукапісы традыц. жанраў, як, напр., кодэксы слуцкіх скрыпторыяў (Евангелле 1502, напісанае на заказ слуцкага архімандрыта Аўраамія манахам А. Крыцкім, прыхаджанінам Лаўрышаўскага манастыра; Евангелле 1539, спраўленае на сродкі кн Ю С. Слуцкага ў манастыры цудатворца Міколы на Марачы, пісец «раб божий пречистый Копысский Василий»), службовая Мінея пач. 16 ст., напісаная «замыслом и гаданием» бел. шляхціца Ф. І. Калантаева, «Кнігі 16 прарокаў тлумачальныя», купленыя ў 1570 у пінскага мешчаніна Б. Куніловіча, Евангелле-тэтр, спіс 1543 з брэсцкага манастыра, рукапіс, напісаны ў Кіеве ў 1610 пінскім ураджэнцам Іванам Васілевічам, і інш. Некаторыя рэдкія рукапісы трапілі

Бібліятэка навуковая Вільнюскага універсітэта. Чытальная зала (т зв зала Смуглевіча).

ў Расію ў часы войнаў, палонаў і рэквізіцый, аб чым сведчаць, напр., запісы на «Шастадневе» 16 ст. (кодэкс са збораў Т-ва гісторыі і старажытнасцей расійскіх) ці «Пралогу» сярэдзіны 16 ст., які некалі належаў Смаленскаму краязн. музею У б-цы захоўваюцца і рэдкія стараж. рукапісы інш. жанраў: кормчыя, напісаныя на Беларусі ці ў Літве ў 16—17 ст., палемічныя і гіст зборнікі (у т. л пасланні старца Арцемія да С. Буднага, А Валовіча, «Маргарыт новы» ў перакладзе кн. А. Курбскага, напісаны бел. паўуставам, зб. павучанняў з казаннямі Л Карповіча, «Гутаркі Іаана Златавуста», падараваныя архімандрытам Супрасльскага манастыра кн. Масальскім жаночаму манастыру ў Дубне і інш.). Асобную групу складаюць спісы з твораў Кірылы Тураўскага, школьных падручнікаў і даведнікаў С. і Л. Зізаніяў, П. Бярынды, М. Сматрыцкага. З Сібіры ў 1875 трапіла ў б-ку берасцяная копія з «Граматыкі» Сматрыцкага «Кароткае граматыкі выяўленне» сярэдзіны 18 ст. У аддзеле рукапісаў зберагаюцца «Хроніка» 1549 старосты кобрынскага Хвальчэўскага, «Бездніпскі летапісец» з пахвалой Вітаўту, Румянцаўскі спіс бел-літ летапісу, мноства хранографаў 16—17 ст., у т. л. так званай «заходнярускай» рэдакцыі, «Александрыя» ў спісах 17 ст. і 1697, напісаная мазырскім дзякам В. Г. Мянжынскім. Сярод свецкіх твораў юрыдычныя, гіст., мастацкія помнікі: спісы Статутаў ВКЛ 1566 і 1588, «Хронікі» М. Стрыйкоўскага, «Памяць аб родзе Глінскіх» 16 ст., творы Максіма Грэка, Сімяона Полацкага, Г. Каніскага, копіі з выданняў Ф. Скарыны і інш. У некаторых фондах захоўваюцца дакументальныя, актавыя, генеалагічныя матэрыялы: «Справаводства Віленскай «з'езжай» ізбы» 1655—59, «Кніга аб даходах Полацкага намесніцтва 1792 г.», сац.-эканам. акты, што тычацца зямельных даніін і судовых спраў у Навагрудскім ваяводстве ў 1626—1701. У музеі кнігі (былы аддзел рэдкай кнігі) захоўваецца адна з найбольшых калекцый бел. кірыліцкіх старадрукаў (82 экз. выданняў Скарыны, кнігі Буднага, В. Гарабурды, П. Мсціслаўца, братоў Мамонічаў, брацкіх, уніяцкіх, прыватных бел. друкарань 16—18 ст.), багатыя зборы польскай і заходнееўрап. кнігі і графікі, у т. л. творы Эразма Ратэрдамскага, К. Манвіда-Дарагастайскага, Кальвіна, Стрыйкоўскага, Сматрыцкага, рэдкія панегірыкі і перыяд. выданні. У спецыялізаваным фондзе сабраны багатыя калекцыі замежных, бел., рус., укр. сав. картаграфічных твораў (каля 190 тыс. адзінак), нац і рэгіянальныя атласы, планы гарадоў, сучасныя міжнар. выданні.

Захоўваюцца творы бел пісьменнікаў, пераклады, дысертацыі, прысвечаныя гісторыі Беларусі, духоўнай спадчыне, славянскім культ. сувязям. Бібліятэка выпускае «Інфармацыйны бюлетэнь новых замежных кніг, якія паступілі ў бібліятэку», «Запіскі аддзела рукапісаў», «Працы дзяржаўнай бібліятэкі імя У. І. Леніна», «Бібліятэказнаўства і бібліяграфія за рубяжом» і інш.

*Літ* Пятидесятилетие Румянцевского музея в Москве, 1862—1912 Ист очерк М, 1913, История Государственной ордена Ленина библиотеки СССР им В И Ленина за сто лет, 1862—1962 М, 1962, Национальная библиотека страны Пробл и перспективы М, 1975, Труды Государственной ордена Ленина библиотеки СССР им В И Ленина Т 13 Фонды Состояние и тенденции развития. М, 1976, Описание старопечатных изданий кирилловского шрифта. М, 1979 (выданне працягваецца)

*Г Я Галенчанка*

**БІБЛІЯТЭ́КА НАВУКО́ВАЯ ВІ́ЛЬНЮСКАГА УНІВЕРСІТЭ́ТА.** Заснавана ў 1570 як б-ка Віленскага езуіцкага калегіума Значна пашырылася пасля 1579, калі калегіум ператвораны ў акадэмію (гл *Віленскі універсітэт*). На яе ахвяравалі польскі кароль і вял. кн. літоўскі Жыгімонт Аўгуст, віленскі біскуп В. Пратасевіч, падканцлер Казімір Леў Сапега. Атрымлівала абавязковы экземпляр з універсітэцкай друкарні, з 1780 — з усіх друкарняў ВКЛ. У 1579 налічвала 4,5 тыс. тамоў, у 1773 — 11 тыс тамоў. Б-ка мела свае каталогі, кнігі расстаўляліся па 18 аддзяленнях у адпаведнасці з галінамі навукі. Б-кай карысталіся прафесары ун-та, студэнты. Пераважалі рэліг. тэалагічныя кнігі. Зберагаліся рэдкія выданні і рукапісы, у т. л твор М. Каперніка «Пра абарачэнні нябесных сфер», працы Пталамея, Арыстоцеля, Р. Дэкарта, старадж. пергаментны Псалтыр на царк.-слав. мове, Слуцкі спіс 16 ст. Статута ВКЛ 1529 і інш З канца 18 ст. ствараліся адносна самастойныя кніжныя зборы факультэтаў. З 1805 у б-ку сталі афіцыйна дапускацца пабочныя асобы. Пасля паўстання 1830—31 у Польшчы, на

Беларусі і ў Літве ун-т зачынены (1832), кніжныя фонды падзелены паміж Медыка-хірургічнай і Духоўнай акадэміямі, частка кніг перададзена Бел. навучальнай акрузе, Кіеўскаму і Харкаўскаму ун-там. Пасля аднаўлення ун-та (1919) у б-ку паступілі некаторыя зборы Віленскай публічнай б-кі, у 1930-я гады універсітэцкая б-ка налічвала каля 200 тыс. тамоў. У канцы 1940-х — 1950-я гады папоўнілася кнігамі з б. Каўнаскага ун-та, з б-к Масквы і Ленінграда. У 1985 налічвала 4,5 млн. адзінак захавання, у т. л. 180 тыс. старадрукаў (312 інкунабул), 189 тыс. рукапісаў, 66 тыс. бібліягр. і інфармацыйных выданняў. Штогадовы прырост фондаў 130 тыс. экз. У фондах рукапіснага аддзела захоўваюцца стараж. кодэксы, дакумент. і актавыя матэрыялы 14—20 ст., асабістыя архівы прафесараў Віленскага ун-та, у т. л. гісторыкаў М. Балінскага, І. Лялевеля, М. Маліноўскага, Ю. Кавалеўскага, перапіска А. Мілавідава, І. Спрогіса. Зберагаюцца матэрыялы прыватных архіваў Сапегаў, Тышкевічаў, Копцяў, інвентары і гасп. кнігі маёнткаў, гаспадарскіх уладанняў, гарадоў, мястэчак (Кобрын, Любча, Дзярэчын, Крошынскае староства і інш.), царк. устаноў (Лаўрышаўскага і Супрасльскага манастыроў, Гродзенскага канвента, каталіцкіх ордэнаў), архіва Віленскага ун-та, рукапісы пісьменнікаў, навукоўцаў, фальклорныя запісы, інтэрмедыі, зборнік вершаў полацкага стражніка С. Багушэўскага, архіў Паўн.-Зах. аддзела Рус. геаграфічнага т-ва (у т. л. адказы мясц. карэспандэнтаў на анкету, распаўсюджаную ў пач. 1870-х гадоў, са звесткамі пра сельскую гаспадарку, побыт і культуру беларусаў), альбом мастака Дз. М. Струкава з каляровымі замалёўкамі населеных месцаў, помнікаў архітэктуры, эпіграфікі, твораў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва (у т. л. крыж Ефрасінні Полацкай). Сярод старадрукаў Брэсцкая біблія 1563, «Апостал» Ф. Скарыны 1525, выданні Мамонічаў, Віленскага брацтва, унікальныя экземпляры кніг В. Каяловіча (1651, 1653), «Абарона Вялікага княства Літоўскага» А. Ружоўскага (каля 1649), юрыдычныя, навук. і царк.-палемічныя выданні. Многія інкунабулы захоўваюць запісы бел. чытачоў, каля 200 тамоў паходзяць з кнігазбору Казіміра Льва Сапегі. Асобную калекцыю складаюць зборы картаграфічных матэрыялаў і атласаў, іканаграфіі.

*Літ.:* Миловидов А. И. Описание славяно-русских старопечатных книг Виленской публичной библиотеки (1491—1880 гг.). Вильна, 1908; Петраускене З. Библиотека Вильнюсского университета. Вильнюс, 1970; Bibljoteki Wileńskie. Praca zbiorowa. Wilno, 1932; Brensztejn M. Bibljoteka Uniwersytecka w Wilnie do roku 1832. 2 wyd. Wilno, 1925; Kulturų kryžkeleje. Vilnius, 1970; Lisowski S. Uniwersytecka Bibljoteka Publiczna w Wilnie w latach 1919—1929. Wilno, 1931; Vilniaus valstybinis V. Kapsuko universitetas. Mokslinė biblioteka — 400. Vilnius, 1970; Feigelmanas N. Lietuvos inkunabulai: [Katalogas]. Vilnius, 1975. *Г. Я. Галенчанка.*

Бібліятэка Нацыянальная Беларусі. Галоўны корпус.

**БІБЛІЯТЭ́КА НАЦЫЯНА́ЛЬНАЯ БЕЛАРУ́СІ,** галоўная універсальная навук. бібліятэка; цэнтр. кнігасховішча; даследчы, метадычны і каардынацыйны цэнтр у галіне бібліятэказнаўства, бібліяграфіі і кнігазнаўства. Заснавана ў 1921 як б-ка БДУ. 15.9.1922 пераўтворана ў аб'яднаную Бел. дзяржаўную і універсітэцкую б-ку з Бел. кніжнай палатай. У 1922 пры б-цы арганізаваны аддзел бел. л-ры і бібліяграфіі, пачалася работа ў галіне рэтраспектыўнай нац. і краязнаўчай бібліяграфіі. 14.5.1926 вылучана ў самастойную Бел. дзярж. б-ку. 10.8.1932 рэарганізавана ў Дзярж. б-ку і бібліяграфічны ін-т БССР. Ёй прысвоена імя У. І. Леніна. У 1992 перайменавана ў Нацыянальную б-ку Беларусі. На пач. 1941 з'яўлялася цэнтрам метадычнай і бібліяграфічнай работы на Беларусі, кніжны фонд дасягаў 1 млн. 600 тыс. экз., колькасць чытачоў 15 тыс. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. захопнікі знішчылі фонды і даведачны апарат б-кі. Пасля вызвалення Мінска пачалося яе аднаўленне. Да 1948 фонды б-кі па колькасным складзе дасягнулі даваен. ўзроўню. З 1956 б-ка з'яўляецца дэпазітарыем матэрыялаў ААН і ЮНЕСКА, з 1975 — універсальным дэпазітарыем Рэспублікі Беларусь. Кніжны фонд (на 1.1.1993) 7,2 млн. экземпляраў. У б-цы захоўваюцца каштоўныя выданні 19 — пач. 20 ст. з прыватных калекцый П. М. Жуковіча, І. П. Карнілава, акад. У. І. Пічэты па гісторыі Беларусі, А. П. Сапунова і І. І. Гальдштэйна па гісторыі Літвы і Польшчы, акад. Я. Ф. Карскага і М. А. Янчука па бел. л-ры, мове і этнаграфіі. Захоўваюцца першыя выданні твораў В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча, Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча і інш., першыя легальныя бел. газеты «Наша доля» і «Наша ніва», першая сав. газета на бел. мове «Дзянніца», рэспубліканскія, абл., раённыя газеты і часопісы ад пачатку іх выдання. Вялікую каштоўнасць уяўляюць кнігі фонду замежнай л-ры па грамадскіх навуках, гісторыі камуніст. руху, творы класікаў замежнай л-ры. Значнай з'яўляецца калекцыя польскай л-ры 19—20 ст. Сярод рукапісных выданняў помнікі славяна-рус. пісьменства канца 15 — пач. 16 ст. («Пралог. Верасвёўская палавіна»), 16 ст. («Тайная тайных, або Арыстоцелевы вароты»), зборнікі кручавога запісу песнапенняў 17—19 ст. і інш. Калекцыя інкунабул налічвае 44 адзінкі. Сярод іх першы ням. пераклад грэч. рамана 3 ст. «Гісторыя Апалонія, караля Цірскага» (Аўсбург, 1471), выданне «Боскай камедыі» Дантэ (1481), «Кніга хронік» Х. Шэдэля (1493). Сярод 150 палеатыпаў 16 прыжыццёвых выданняў М. Лютэра, выданні знакамітых друкароў Альдаў, Эльзевіраў, Эцынаў, Фрабэнаў, Плантэнаў і інш. У калекцыі кірылаўскага друку 10 выпускаў «Бібліі» Ф. Скарыны (Прага, 1517—19), выданні І. Фёдарава, П. Мсціслаўца, братоў Мамонічаў, выданні бел., рус., укр. друкарань 16—18 ст. У зборы рус. грамадзянскага друку 18 — 1-й чвэрці 19 ст. 10 кніг пятроўскай эпохі, прыжыццёвыя выданні М. В. Ламаносава, працы па гісторыі Расіі. Міжнародным кнігаабменам б-ка звязана з 160 б-камі і арг-цыямі 30 краін свету, міжнар. абанементам — з 29 б-камі 10 краін свету, міжбібліятэчным — з 3200 б-камі ў СНД. Штогод абслугоўвае больш за 38 тыс. чытачоў. Вядзе н.-д. работу па гісторыі бібліятэчнай справы на Беларусі. Выдае навук.-дапаможную і рэкамендацыйную бібліяграфію, з 1960 выходзіць штомесячны бібліягр. бюлетэнь *«Новыя кнігі Беларусі»*.

Будынак б-кі ўзведзены ў 1929—32 (арх. Г. Лаўроў) у стылі канструктывізму. У канцы 1950-х гадоў і 1989 комплекс б-кі расшыраны.

*Літ.:* Нацыянальная бібліятэка Беларусі, 1922—1992: Да 70-годдзя з дня заснавання і 100-годдзя з дня нараджэння першага дырэктара І. Б. Сіманоўскага: Бібліягр. паказ. Мн., 1992. *А. Г. Міхаленя.*

**БІБЛІЯТЭ́КА НАЦЫЯНА́ЛЬНАЯ РАСІ́ЙСКАЯ** ў Санкт-Пецярбургу (да 1917 Імператарская публічная, да 1991 Дзяржаўная публічная імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына), агульнадаступная універсальная навук. бібліятэка, нац. б-ка Расіі, адно з буйнейшых кнігасховішчаў свету (29 млн. адз. захоўвання, 1989). Заснавана ў 1795 на базе вывезенай А. В. Суворавым з Варшавы б-кі Залускіх (паводле Рыжскага дагавора 1921 большая яе частка вернута ў Польшчу), для наведвання адкрыта ў 1814; з 1811 атрымлівае абавязковы экземпляр усёй айч. друкаванай прадукцыі. Мае самы поўны збор рус. кніг (12 млн.) і перыёдыкі (8 млн. часопісаў і 500 тыс. гадавых камплектаў газет), картаграфічны фонд (116,5 тыс.) і інш.

У аддзеле рукапісаў больш за 310 тыс. помнікаў пісьменства. Сярод іх 40 тыс. рукапісных кніг, у т. л. *Астрамірава евангелле, Лаўрэнцьеўскі летапіс,* Вял. французскія хронікі з мініяцюрамі С. Марміёна, арабскія і персідскія ілюмінаваныя рукапісы 14—17 ст. і інш. Захоўваюцца асабістыя архівы (Дома

Раманавых, дзярж і ваен дзеячаў А М. Гарчакова, А. С. Норава, І. І. Талстога, М. М. Сперанскага, А А. Чычэрына, А. В. Суворава, М. І. Кутузава і інш.), гісторыкаў (І. М. Грэўса, В. І Дабіяш-Раждзественскай, М. І. Кастамарава, С. Ф. Платонава), вучоных (П. П. Пякарскага, Р. П. Кавалеўскага, А. М. Пыпіна, К. А. Капяржынскага, А. А. Шахматава), літаратараў (Г. Р. Дзяржавіна, М. Ю. Лермантава, І А. Крылова, М. В. Гогаля, Ф. М. Дастаеўскага, Г. А. Ахматавай), кампазітараў і мастакоў (М. П. Мусаргскага, М. А. Рымскага-Корсакава, М. І. Глінкі, М. А. Балакірава, Дз. С. Бартнянскага, І. Я Рэпіна). Зберагаюцца грэч. і лацінскія рукапісы, егіпецкія папірусы, калекцыя гебраістыкі С. Фіркові́ча, лісты і творы Дж. Байрана, А. Бальзака, І. Гетэ, В. Гюго, Ж. Семянона, кампазітараў Л. Бетховена, Ж. Бізэ, Ф. Шапэна і інш. У фондзе замежных кніг знаходзіцца адзіная па сваей паўнаце калекцыя «Росіка» (250 тыс. замежных выданняў пра Расію, надрукаваных да 1917), буйнейшы ў свеце збор інкунабул (каля 6 тыс.), асабістая б-ка Вальтэра (каля 7 тыс экз ), калекцыя выданняў Парыжскай Камуны. У склад б-кі ўваходзіць «Дом Г. В. Пляханава», дзе знаходзіцца яго архіў і б-ка. Выдае інфармацыйныя бюлетэні, навук. і рэкамендацыйныя бібліяграфічныя дапаможнікі, каталогі асобных калекцый і збораў, агульныя і галіновыя бібліяграфіі, манаграфіі і зборнікі навук. прац.

Бел матэрыялы шырока прадстаўлены ва ўсіх аддзелах б-кі. У аддзеле рукапісаў захоўваюцца рукапісныя кнігі, у т л *Полацкія евангеллі*, спісы Статутаў Вял кн. Літ. 1529 і 1566; бел. літаратурны зборнік 15 ст., бел. пераклад «Александрыі» 17 ст., *Віцебскі летапіс*, *Магілеўская хроніка* і інш.

Зберагаюцца вял. калекцыя бел кірылічных старадрукаў, апісаная В. І. Лук'яненка ў «Каталогу беларускіх выданняў кірылаўскага шрыфту XVI—XVII стст.» (вып. 1—2, 1973—75), бел. і надрукаваныя на бел. землях кнігі (кірылічныя ў Рус. фондзе і аддзеле рэдкай кнігі, надрукаваныя лацінкай у калекцыях «Росіка» і «Паліграфія»), часопісы (рускі і замежны фонд часопісаў), карты, атласы і планы (аддзелы картаграфіі і рукапісаў), газеты (аддзел газет), рэкламныя афішы, гравюры, плакаты, паштоўкі (аддзел эстампаў). У кніжных фондах шматлікія кнігі з канфіскаваных у 1831—63 б-к Сапегаў з Дзярэчына і Кодэня, Радзівілаўскай з Нясвіжа, езуіцкіх Гродзенскай калегіі і Полацкай акадэміі, Жыровіцкага манастыра і інш.

Матэрыялы пра Беларусь знаходзяцца ў асабістых архівах гісторыка паўстання 1863—64 В. Ф. Ратча, папячыцеляў Віленскай навуч. акругі І. П. Карнілава і П М. Бацюшкава, этнографа і кнігазнаўца П. А. Гільтэбранта, археолага З Я Даленгі-Хадакоўскага, навукоўца і аўтара «Дзенніка» М. Баяровіча, гісторыка М. С. Куторгі, пісьменніка Л. І. Ракоўскага, а таксама ў фондах асобных паступленняў карт і планаў, арх. чарцяжоў, заходнярус. актаў, аўтографаў Дуброўскага і інш Супрацоўнікамі б-кі ў дарэв. часы былі выхадцы з Беларусі санскрытолаг К. А. Касовіч, бібліятэказнаўцы І. Д. Іваноўскі, В. Сабальшчыкоў, даследчык самарыяцкіх рукапісаў А. Я. Гаркаві. У аддзеле рукапісаў працавалі браты Віктар і Кастусь Каліноўскія.

*Літ* · Императорская публичная библиотека за 100 лет, 1814—1914 Спб, 1914; История Государственной ордена Трудового Красного Знамени публичной библиотеки им М. Е Салтыкова-Щедрина Л , 1963, Государственная публичная библиотека имени М Е Салтыкова-Щедрина Библиогр. указ Ч 1—3 Л , 1987—89

*М В Нікалаеў*

**БІБЛІЯТЭ́КА ПО́ЛАЦКАГА САФІ́ЙСКАГА САБО́РА.** Існавала з сярэдзіны 11 ст. да 1579 пры *Полацкім Сафійскім саборы.* У 12 ст. папаўненню яе фондаў садзейнічала асветніца *Ефрасіння Полацкая.* У б-цы зберагаліся рукапісныя кнігі пераважна рэліг. зместу, арыгінальныя помнікі, у т. л. творы мясц. паходжання. летапісы, «Жыцце Ефрасінні Полацкай». Разрабавана ў час Лівонскай вайны 1558—83. 10 рукапісаў на слав. мове з гэтай б-кі зберагаюцца ў Нац. б-цы ў Варшаве (у т. л. «Зборнік» 1500—01, спіс Пскоўскага 1-га летапісу 1548), «Евангелле вучыцельнае» сярэдзіны 16 ст.— у б-цы Львоўскага ун-та імя І. Франко.

*Літ* Слуховский М. И. Библиотечное дело в России до XVIII в М , 1963 С 157—158, Щапов Я Н О судьбе библиотеки Полоцкого Софийского собора // Вопросы истории 1974 № 6, Его ж Библиотека Полоцкого Софийского собора и библиотека Академии Замойской // Культурные связи народов Восточной Европы в XVI в. Проблемы взаимоотношений Польши, России, Украины, Белоруссии и Литвы в эпоху Возрождения. М , 1976

*В А Цыбуля*

**БІБЛІЯТЭ́КА ПО́ЛАЦКАЙ ЕЗУІ́ЦКАЙ АКАДЭ́МІІ.** Існавала з канца 16 ст. да 1820. Засн. пры Полацкім езуіцкім калегіуме, які ў 1812 пераўтвораны ў акадэмію. У 1811 налічвала каля 40 тыс. тамоў. Складалася з гал., навук. і польскай б-к. У 19 ст. была найбагацейшым кнігазборам на Беларусі У ёй зберагаліся каралеўскія граматы, страж. рукапісы, інш. дакументы, каля 90 біблій, выдадзеных у 16—17 ст. Аснову кніжнага фонду складалі выданні 16—18 ст. на польскай, лац, французскай, ням. мовах, сярод іх працы Арыстоцеля (Гейдэльберг, 1562), Эразма Ратэрдамскага (Амстэрдам, 1682). Значная колькасць л-ры была выдадзена на Беларусі, у т. л. лекцыі ўкр. і рус. пісьменніка-асветніка Ф. Пракаповіча (Магілеў, 1786), выданні Полацкай езуіцкай акадэміі па мастацкай рыторыцы (1788, 1816), яе перыяд. выданне «Miesięcznik Połocki» («Полацкі штомесячнік»), дысертацыя філосафа А. Доўгірда, дапаможнікі па прыродазнаўстве. Пасля закрыцця акадэміі (1820) кнігазбор перададзены манаскаму ордэну піяраў. У 1830, калі піяры былі пераведзены з Полацка ў Вільню, кнігазборы часткамі перададзены б-цы Полацкага кадэцкага корпуса (2080 кніг па дакладных навуках у 1915 вывезены ў Сімбірск), Публічнай б-цы ў С.-Пецярбургу (389 старадрукаў), б-кам бел. гімназій (10 тыс. тамоў). Значную частку фондаў атрымала б-ка Віцебскай духоўнай семінарыі, якая ў 1900 перадала яе б-цы Кіеўскай духоўнай акадэміі (у камісію для перадачы ўваходзілі этнограф і фалькларыст М. Я Нікіфароўскі, гісторык Дз. І. Даўгяла)

*В А Цыбуля*

**БІБЛІЯТЭ́КА РАДЗІВІ́ЛАЎ** у Нясвіжы. Найбуйнейшая прыватная б-ка Рэчы Паспалітай. Заснавана ў 16 ст. Мікалаем Радзівілам Чорным, які выкарыстоўваў шырокія культ. сувязі для атрымання кніг з друкарань Еўропы. У б-ку паступалі таксама кнігі з асабістых друкарань, заснаваных ім у Нясвіжы і Брэсце. Фонд б-кі павялічыў яго сын Мікалай Крыштаф Сіротка. У час адукацыі за мяжой ен прысылаў у Нясвіж шмат кніг. У Б. Р. паступілі зборы Ганны Радзівіл з Сангушкаў, маршалка Флемінга Першы каталог б-кі складзены ў сярэдзіне 17 ст. Альбрэхтам Радзівілам У 1670-я гады зроблены 1-ы экслібрыс. У сярэдзіне 18 ст. Б. Р налічвала каля 9 тыс. тамоў, у 1772 — больш за 20 тыс. тамоў, у т. л інкунабулы, палеатыпы, антычную і рэнесансавую л-ру, гіст. і юрыд. выданні, палемічныя рэфармацыйныя творы. Мела вял. рукапісны фонд. Афіцыйна называлася Ардынацкай б-кай У 1772 вывезена з Нясвіжа і перададзена пецярбургскім б-кам. У 19 ст. ўладальнікі Нясвіжскага замка стварылі новую б-ку, у якой архіварыусамі і бібліятэкарамі працавалі У. Сыракомля, М. Маліноўскі, М. Богуш-Шышка. У 1864 у б-ку паступілі кнігі з закрытых у Нясвіжы кляштараў бернардзінцаў і бенедыкцінак. У 1880 Антон і Марыя Радзівілы перавезлі з Берліна б-ку, якая стала гал. часткай новага Нясвіжскага збору кніг і мела асобны экслібрыс. У час 1-й сусв. вайны б-ка разрабавана, рэшткі яе ў 1940 перададзены АН БССР. У Вял. Айч. вайну вывезена ў Германію, у 1945—46 разрозненыя часткі яе вернуты на Беларусь і захоўваюцца ў Мінску ў Цэнтр. навук. б-цы АН Беларусі, Нац. б-цы Беларусі, Урадавай б-цы, Нац. архіве Рэспублікі Беларусь.

*Л І Збралевіч*

**БІБЛІЯТЭ́КА РАСІ́ЙСКАЙ АКАДЭ́МІІ НАВУ́К** у Санкт-Пецярбургу, адна з буйнейшых сусветна вядомых бібліятэк, старэйшая навук. бібліятэка Расіі, установа са статусам навуковадаследчага ін-та ў галіне кніга-, бібліятэка- і бібліяграфазнаўства, рэстаўрацыі і кансервацыі дакументаў; цэнтр міжнар. кнігаабмену.

Заснавана ў 1714. Аснову фондаў (каля 18 тыс. кніг) склалі кнігі і рукапісы царскіх бібліятэк і б. Аптэкарскага прыказа, вывезеныя ў 1712 з Масквы, зборы Пятра І і інш. прыватных асоб.

У 1772 паступіла вывезеная з Нясвіжа б-ка Радзівілаў (каля 15 тыс. кніг). З 1725 б-ка падначалена Пецярбургскай АН, стала яе першай навук. установай. З 1783 атрымлівае абавязковы экземпляр усіх друкаваных у Расійскай імперыі выданняў. З 1925 наз. Б-ка АН СССР, з 1992 — Б-ка Расійскай АН. Кніжныя фонды ўсяго комплексу 20 млн. экз. (1992), больш за 40 % складаюць замежныя навук. выданні. Захоўваюцца унікальныя зборы рукапісных кніг (каля 20 тыс. экз.), у т. л. Іпацьеўскі, Радзівілаўскі летапісы, Нікіфараўскі, Акадэмічны, Супрасльскі спісы бел.-літ. летапісаў 1446, пераклады візантыйскіх і зах.-еўрап. хронік (у т. л. «Хроніка...» М. Стрыйкоўскага 16 ст.), творы апалагетаў стараверства (у т. л. аўтограф пратапопа Авакума), вял. «заходнярускі» Хранограф 2-й чвэрці 17 ст., Служэбнік архірэйскі 1-й пал. 16 ст. з тэкстам Цвярскога перапісу (рукапіс з «заходнярускімі» палеаграфічнымі прыкметамі). У б-цы захоўваюцца стараж. бел. і «заходнярускія» літургічныя, царкоўнарэліг., гіст. рукапісы, у т. л.: фрагмент «Евангелля апракас» 13—14 ст. з паметай супрасльскага архімандрыта Яўстафія; «Апостал» з тлумачэннямі 15 ст. з укладным запісам 1460 А. Солтана, гаспадарскага маршалка; «Дзесяціглаў» — арыгінальны біблейскі звод, складзены і напісаны ў 1502—07 у Вільні і Супраслі; Евангелле-тэтр Дабрахотаўскае пач. 16 ст. з укладнымі запісамі Ляшчынскаму манастыру, гіст. зборнік епіскапа Паўла 16 ст. з летапіснымі выпіскамі і палемічнымі творамі; гіст. зборнік 1546 з б-к Супрасльскага, пазней Жыровіцкага манастыроў; «Палея» сярэдзіны 16 ст., «Пандэкты» Нікана Чарнагорца 16 ст.; «Сказанне аб Жыровіцкім абразе Маці Боскай» 17 ст.; зборнік з творамі Максіма Грэка 2-й пал. 16 ст., напісаны заходнярус. паўуставам; «Статут ордэна базыльян» 17 ст., «Зярцала багаслоўя» Кірылы Транквіліёна, спіс дзяка Гладовіча ў Шышаве 1641, Пінскі зб. 1-й пал. 17 ст., збор казанняў полацкіх езуітаў 1669—72, Слуцкі кодэкс «Гісторыі Польшчы» Я. Длугаша (кн. 1—9); «Статут Вялікага княства Літоўскага», перапісаны ў 1613 для Л. Юцінскага; збор з дакумент. матэрыяламі 17—18 ст. Жыровіцкага манастыра; творы І. Кунцэвіча і інш. царк. і грамадз. дзеячаў, палемістаў 17—18 ст. Некаторыя бел. рукапісы ўвайшлі ў Нёманскі і Дзвінскі зборы б-кі. Многія стараж. бел. рукапісы паходзяць са збораў епіскапа Паўла (Дабрахотава). У рукапісным аддзеле захоўваецца і вял. картатэка апісанняў рукапіснай кніжнасці 11—17 ст., складзеная акад. М. К. Нікольскім. У зборах аддзела рэдкай кнігі захоўваюцца бел. старадрукі (выданні брацкіх, прыватных, рэфармацыйных, каталіцкіх друкарняў), у т. л. 18 экз. выданняў Ф. Скарыны, некалькі экземпляраў Брэсцкай біблії 1563, «Трэнас» 1610 і «Абарона апраўдання» 1621 М. Сматрыцкага, «Статут Вялікага княства Літоўскага 1588» (выд. ў Вільні ў 1619), «Святога Юстына Філосафа і пакутніка размова» (Нясвіж, 1564), «Вобраз мужнага героя, шчыра вернага Айчыне Паўла Яна Сапегі» (Вільна, 1667), «Трыбунал Вялікага княства Літоўскага» 1614 і 1616 (6 экз.), панегірык Я. Карніцкага, творы бел.-укр. пісьменніка Дубовіча, В. Руцкага, І. Пацея і інш. У асабістай калекцыі Пятра І захоўваюцца рэдкія бел. выданні: «Дыёптра, ці Зярцала» (Куцейна, 1651), «Неба новае» (Магілёў, 1699) Іаанікія Галятоўскага, «Духоўныя размовы» (Вільна, 1627) Макарыя Егіпецкага і інш. Агульная колькасць рус. і іншаземнай рукапіснай кнігі на пергаменце і паперы — каля 20 тыс. адзінак захавання. Найбольш рэдкіх і каштоўных выданняў каля 270 тыс. экз. (ад пач. кнігадрукавання да 20 ст.), інкунабул каля 800 экз., заходнееўрап. кнігі 16 ст. больш за 10 тыс. экз. (разам з філіяламі больш за 15 тыс.), заходнееўрап. выданняў 17—20 ст. разам з Бэраўскім фондам і інш. зборамі замежнага фонду больш за 100 тыс. У сектары рэдкай кнігі захоўваюцца таксама выданні 18 — 1-й чвэрці 19 ст., у т. л. надрукаваныя ў Магілёве і Полацку польскамоўныя календары і інш. выданні, зборы «вольнага друку» — рускамоўныя замежныя выданні; нелегальны і забаронены друк 19—пач. 20 ст. Захоўваецца № 1 час. «Гомон». У сектары картаграфіі багаты збор карт і атласаў 16—20 ст. (каля 128 тыс. экз.). У Славянскім фондзе (арганізаваны ў 1882, першы заг. Э. А. Вольтэр) больш за 108,5 тыс. экз. кніг і 85 тыс. экз. перыёдыкі (1992), надрукаваных да 1930. Бел. фонд гэтага аддзела налічвае каля 1048 экз. кніг і 105 экз. перыяд. выданняў. У ім сабрана амаль усё надрукаванае на бел. мове да 1930, у т. л. маст. л-ра: паэма «Тарас на Парнасе», творы В. Дуніна-Марцінкевіча, «Дудка беларуская» Ф. Багушэвіча (1891), публіцыстыка пач. 20 ст. і інш. Зберагаецца фонд выданняў Расійскай АН пачынаючы з 1727 (час надрукавання 1-й кнігі акад. друкарні) да 1992 (больш за 300 тыс. экз.). У лют. 1988 ад пажару найбольш пацярпеў самы каштоўны фонд замежнай кнігі (188 тыс. экз.). Усяго папсавалася або загінула каля 3,6 млн. экз. кніг і газет.

У сістэме б-кі 40 філіялаў і спецыялізаваных аддзелаў пры ін-тах Расійскай АН (агульны фонд каля 6 млн. экз. на 1992). Б-ка з'яўляецца таксама інфармацыйна-бібліягр. цэнтрам, выдае серыю «Кніга ў Расіі ў XVIII — пач. XIX ст.» і даведнікі «Бібліяграфія выданняў Акадэміі навук», «Шкодныя рэчывы ў навакольным асяроддзі», «Рускі фальклор», «Паказальнік зместу рускіх дарэвалюцыйных газет» і інш. Праводзіць даследы па палеаграфіі, археаграфіі, гісторыі кнігі. Выдае манаграфіі, навук. апісанні рукапісаў, друкаваныя каталогі асобных збораў і калекцый.

*Літ.:* Исторический очерк и обзор фондов рукописного отдела Библиотеки Академии наук. Вып. 1—2. М.; Л., 1956—58; История Библиотеки АН СССР, 1714—1964. М.; Л., 1964; Библиотека АН СССР (1714—1964): Библиогр. указ. Л., 1964; Материалы и сообщения по фондам отдела рукописной и редкой книги Библиотеки Академии наук СССР. [Вып. 1—3]. М.; Л., 1966—87; Пергаментные рукописи Библиотеки Академии наук СССР: Описание рус. и слав. рукописей XI—XVI вв. Л., 1976; Рукописные и редкие печатные книги в фондах Библиотеки АН СССР: Сб. науч. тр. Л., 1976; Библиотека Петра I: Указ.-справ. Л., 1978; Библиотека АН СССР: Указ. лит. за 1964—1974 гг. Л., 1981; Комарова В. П. Славянский фонд Библиотеки Академии наук СССР и его отражение в каталогах. Л., 1987; Проблемы сохранности фондов научных библиотек: Сб. науч. тр. Л., 1988; Описание рукописного отдела Библиотеки Академии наук СССР. Т. 3—8. Л., 1959—89; Проблемы сохранности книжных фондов: Сб. науч. тр. Л., 1989; Николаев Н. В. Несвижская библиотека князей Радзивиллов// Книга в России XVIII — середины XIX в. Л., 1989; Книга в России XVI — середины XIX в.: Материалы и исслед.: Сб. науч. тр. Л., 1990.

*Г. Я. Галенчанка, М. В. Нікалаеў, А. А. Савельева.*

**БІБЛІЯТЭ́КА СУ́ПРАСЛЬСКАГА БЛАГАВЕ́ШЧАНСКАГА МАНАСТЫРА́,** адна з буйнейшых бібліятэк ВКЛ. *Супрасльскі Благавешчанскі манастыр* заснаваны ў 1498 маршалкам ВКЛ Аляксандрам Іванавічам Хадкевічам сумесна з епіскапам смаленскім (пазней кіеўскім мітрапалітам) Іосіфам Солтанам у Блудаўскай пушчы (цяпер Беластоцкае ваяв., Польшча). Паводле адных звестак, першымі манахамі былі выхадцы з Афона, паводле іншых — з Кіева-Пячэрскай лаўры. З першых гадоў свайго існавання манастыр стаў адным з буйнейшых у ВКЛ. Пры архімандрыце Сергіі Кімбары (1532—65) манастыр стаў называцца лаўрай, а яго архімандрыты на мітрапаліцкіх саборах падпісваліся ўслед за архімандрытамі Кіева-Пячэрскай лаўры. У 1-й пал. 16 ст. манастыр стаў буйным праваслаўным культ. цэнтрам, ахвяраванні ў які, у т. л. кніжныя, паступілі нават «с Торопца места з Москвы». Мяркуючы па запісах у паменніку Супрасльскага манастыра, у гэты час і пазней запісы аб памінанні рабілі жыхары Маскоўскай дзяржавы, сярод іх «род Афанасия Глебова з земле Резаньской» і «род Памва псковитина». Да сярэдзіны 16 ст. узмацніліся сувязі з паўднёваслав. культурамі, у прыватнасці з сербскай. У час архімандрыцтва Цімафея Васілевіча Злобы (1575—90) манастыр стаў сховішчам фамільных папер Хадкевічаў, дзе, мабыць, знаходзіліся і дакументы пра работу І. *Фёдарава* і П. *Мсціслаўца* ў Заблудаве. Працягвалі развівацца сувязі з укр. і рус. землямі. Пры архімандрыце Герасіме Веліконціі (1609—35) манастыр фармальна прыняў унію. Аднак праваслаўе ў ім было настолькі моцным, што манастыр яшчэ цэлае стагоддзе захоўваў усе яго знешнія прыкметы. Набажэнства, як і ва ўсёй уніяцкай царкве, да 1720 правілася па ранейшых кнігах праваслаўнай рэдакцыі. Бел. мова і кірыліцкае пісьмо ўсё яшчэ выкарыстоўваліся ў манастырскім справаводстве. Манастыр даваў для

чытання кірыліцкія кнігі з б-кі нават свецкім асобам (у 1654 кн. Януш Радзівіл узяў у б-цы 2 кірыліцкія кнігі — Хроніку і Ірмалогій,— пра што ўласнаручна даў распіску, пабудаваў школу для навучання «рускай» грамаце). У яго сценах працягвалася перапіска кірыліцкіх рукапісаў, у распаўсюджванні якіх на бел. і укр. землях манастыру належыць вял. роля. Тут перапісваліся шматлікія помнікі візантыйскай, стараж.-рус., балгарскай і сербскай л-р, выданні Ф. Скарыны, помнікі музычнай культуры і інш. Перапісчыкамі кніг былі беларусы і ўкраінцы. Выдатнымі кніжнікамі ў Супраслі былі манах манастыра Яўстафій, які перапісаў у 1580 зб. «полемических и поучительных статей», і Багдан Анісімовіч, «спевак родом с Пинска», які пакінуў выдатны помнік усх.-слав. музычнай культуры канца 16 — пач. 17 ст.

Манастырская б-ка славілася сваімі кніжнымі багаццямі. Першы вопіс, складзены ў 1557 архімандрытам Сергіем Кімбарам, фіксуе 209 кніг, у т. л. на грэчаскай і лац. мовах. Вопіс паведамляе, што манастыр да 1532 меў 129 кніг, у т. л. «книг битых» (друкаваных) — 5. Да 1557 колькасць «битых» кніг павялічылася да 7. Вопіс 1645 фіксуе каля 600 кніг, сярод якіх пераважалі друкаваныя на лац. (212 т.) і польскай (152 т.) мовах. Большасць з іх была куплена ў Гданьску, Варшаве, Тыкоціне. Кірыліцкіх кніг было больш за 200, асн. масу складалі рукапісныя, зафіксаваныя яшчэ папярэднім вопісам 1557. Сярод друкаваных кніг было нямала выданняў «друку Скорининого», унікальны экземпляр «Евангелля» В. Цяпінскага, выданні Фёдарава, а таксама, мабыць, выданні Ш. Фіёля і маскоўскай ананімнай друкарні. Паводле вопісу 1688, друкаваныя кнігі зноў пераважаюць над рукапіснымі, але колькасць лац. і польскіх кніг зменшылася ў 2 разы і складала 104 лац. і 72 польскія кнігі. Кірыліцкіх кніг было каля 200 (пераважна рукапісныя), у т. л. вядомыя па ранейшых вопісах. Зберагаліся таксама халдзейская граматыка, грэч. кнігі (Евангелле, Новы запавет, грэч. граматыка), што вельмі паказальна для Супрасльскага манастыра, які захоўваў гэтую традыцыю з часоў свайго заснавання. У 17 ст. Супрасльскі кнігазбор працягваў заставацца адным з буйнейшых на Беларусі. Супрасль з'яўляўся адным з буйнейшых цэнтраў кірыліцкай кніжнасці не толькі беларускіх, але і ўсіх усх.-слав. зямель. Тут зберагаліся выдатны помнік слав. кірыліцкай кніжнасці 11 ст. т. зв. Супрасльскі рукапіс, летапісны зборнік 1-й пал. 16 ст., зборнік 1519 з самым поўным спісам 2-й рэдакцыі *Беларуска-літоўскага летапісу 1446 (гл. Супрасльскі рукапіс, Супрасльскі летапіс)*. Гэтыя помнікі, выдадзеныя ў 19 і 20 ст., маюць першаступеннае значэнне для гісторыі і культуры беларусаў, усіх слав. народаў. Шэраг кніг звязаны з традыцыямі ўсх.-славянскай музычнай культуры: зберагаўся найстаражытнейшы (з тых, што дайшлі да нас) кірыліцкі рукапіс нотналінейнага пісьма — Супрасльскі Ірмалагіён 1598—1601, а таксама значная колькасць рукапісаў і кніг, у т. л. маскоўскага паходжання. Сярод кірыліцкіх кніг некалькі было напісана на пергамене.

Акрамя асноўнай, у манастыры былі і келейныя бібліятэкі. Запіс «Евстафии архидиакон монастыря Супряслиского» на фрагменце пергаменнага Евангелля Апракос 13—14 ст. (б-ка Расійскай Акадэміі навук) сведчыць, што гэта кніга была ў складзе келейнай б-кі супрасльскага архідыякана Яўстафія.

Кнігі актыўна чыталіся, перапісваліся, мігрыравалі. У 18 ст. манастыр значна папоўніў б-ку пераважна за кошт лаціна- і польскамоўных кніг, у т. л. надрукаваных у *Супрасльскай друкарні*. Вопіс 1764 фіксуе 1456 кніг, з іх больш за 800 на лац. мове, больш за 300 на польскай, некалькі дзесяткаў на французскай і італьянскай, больш за 10 на ням. мовах, больш за 100 рукапісных і друкаваных царкоўнаслав. кніг. У пач. 19 ст. бібліятэка пачала прыцягваць увагу буйнейшых славістаў свету. Вучоныя зрабілі ў ёй шэраг значных адкрыццяў, у т. л. адкрылі Супрасльскі рукапіс 11 ст.— адну з найстаражытнейшых кніг усяго славянства. Тады ж пачаўся паступовы адток кніжных каштоўнасцей з б-кі, у чым найперш вінаватыя былі ігумены манастыра. Вопіс 1836 фіксуе 1862 кнігі: на стараж. мовах (амаль выключна на лацінскай) — 1100; на французскай — больш за 50; на ням.— больш за 20; на італьянскай — больш за 100; на польскай — каля 400; «Бібліятэка славянская» (раздзел на царкоўнаслав. мове) налічвала амаль 130 кніг, сярод іх пад № 1174 кн. «Іоў», надрукаваная ў 1517 у Празе Скарынам. На момант поўнай перадачы ў 1876 у Віленскую публічную б-ку значная частка Супрасльскага кнігазбору, найб. старажытная і каштоўная, ужо была вывезена рознымі асобамі. Акрамя 1109 кніг, у Вільню было перададзена ў 1876 каля 200 спраў манастырскага архіва. У манастыры засталося толькі некалькі дзесяткаў кніг, пераважна царкоўнаслужбовых, новага друку. Дзякуючы ігумену манастыра архімандрыту Мікалаю (Далматаву) з 1880-х гадоў б-ка і архіў сталі паступова папаўняцца. Яго ж клопатамі складзены каталог б-кі, якая на пач. 20 ст. налічвала каля 1000 адз. захоўвання, і вопіс архіва (да 700 спраў). Усе яны былі ўжо не такія каштоўныя, але і гэты збор у далейшым быў страчаны, а сам манастыр практычна зруйнаваны.

Большая частка рукапісаў і друкаваных кніг з Б. С. Б. м. знаходзіцца ў Вільнюсе, пэўная іх колькасць — у Санкт-Пецярбургу, Маскве, Варшаве і інш. З 1980-х гадоў сіламі Польскай праваслаўнай царквы Супрасльскі манастыр пачынаюць аднаўляць. Мяркуецца ўзнавіць і б-ку, зрабіць Супрасль адным з сусв. цэнтраў слав. праваслаўнай кніжнай культуры. Міжнародная даследчая праграма «Гісторыя кніжнай культуры Падляшша», над якой працуюць славісты Беларусі, Польшчы, Расіі, Украіны, прадугледжвае і падрабязнае вывучэнне Б. С. Б. м., шматмоўнай л-ры і кніжнасці, створанай у яго сценах, а таксама апісанне ацалелых дакументаў архіва.

*Літ.:* Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси. Т. 9. Вильна, 1870; Добрянский Ф. Описание рукописей Виленской публичной библиотеки, церковнославянских и русских. Вильна, 1882; Николай (Далматов). Супрасльский Благовещенский монастырь: Ист.-стат. описание. Спб., 1892; Рогов А. И. Супрасль как один из центров культурных связей Белоруссии с другими славянскими странами // Славяне в эпоху феодализма: К столетию академика В. И. Пичеты. М., 1978; Улащик Н. Н. Введение в изучение белорусско-литовского летописания. М., 1985; Лабынцев Ю. А. Издания Франциска Скорины и других славянских первопечатников в библиотеке Супрасльского монастыря // Белорусский просветитель Франциск Скорина и начало книгопечатания в Белоруссии и Литве. М., 1979; Яго ж. Пачатае Скарынам. Мн., 1990. *Ю. А. Лабынцаў.*

**БІБЛІЯТЭ́КА ЎРА́ДАВАЯ РЭСПУ́БЛІКІ БЕЛАРУ́СЬ**, спецыяльная навуковая б-ка парламенцкага тыпу; аб'яднаная б-ка Вярх. Савета, СМ, мін-ваў і ведамстваў Беларусі. Заснавана ў 1933 у Мінску на базе даведачных б-к ЦВК, СНК, Дзяржплана БССР, асобных наркаматаў рэспублікі як філіял Дзярж. б-кі і бібліягр. ін-та БССР імя У. І. Леніна. У 1936 рэарганізавана ў самастойную навук. б-ку. У Айч. вайну яе фонд (каля 250 тыс. экз.) знішчаны ням.-фаш. захопнікамі. Аднаўленне пачалося ў 1944. У 1953 фонд дасягнуў даваен. ўзроўню. Кніжны фонд на 1.1. 1990 больш за 1,1 млн. экз. (каля 200 тыс. па грамадска-паліт. навуках, у т. л. па гісторыі). З'яўляецца рэсп. бібліятэчна-бібліягр. цэнтрам і фондатрымальнікам Рэсп. даведачна-інфармацыйнага фонду па пытаннях дзяржавы, права і эканомікі; каардынацыйным і метадычным цэнтрам для бібліятэк Беларусі па бібліятэчна-бібліягр. забеспячэнні органаў улады і кіравання. У фондзе рэдкіх і каштоўных выданняў (10700 адзінак) вылучаны калекцыі беларосікі (18—20 ст.), старадрукаў (16—18 ст.), выданняў рус. грамадз. друку (1700—1825), прыжыццёвых выданняў К. Маркса, Ф. Энгельса, У. І. Леніна, М. Горкага, нелегальнага і забароненага цэнзурай друку 19 ст., марксісцкага і рэв.-дэмакр. друку 1905—07. Захоўваюцца часткі *Бібліятэкі Радзівілаў, Бібліятэкі Супрасльскага Благавешчанскага манастыра*, Рус. Тургенеўскай б-кі ў Парыжы, б-кі П. М. Лепяшынскага, асобныя выданні з б-к Баркалабаўскага манастыра, бел. гімназій і семінарый, кнігазбораў Б. І. *Эпімах-Шыпілы*, К. Б. *Езавітава*, Ф. Г. *Шантыра* і інш. Прадстаўлены выданні Пецярбургскай археаграфічнай камісіі, *Віленскай археаграфічнай камісіі, Віцебскай вучонай архіўнай камісіі*, працы па гісторыі, выдадзеныя Ін-там бел. культуры і АН БССР, манаграфіі і публікацыі М. В. Доўнар-Запольскага, Дз. І. Даўгялы, Я. Ф.

Карскага, А. П Сапунова, У. І. Пічэты і інш. Сярод іх «Беларускі архіў старажытных грамат» (1824), «Збор старажытных грамат і актаў гарадоў Мінскай губерні. .» (1848), «Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 года» (1854), «Памятныя кніжкі» Віленскай, Віцебскай, Магілеўскай і Мінскай губ., выпускі Мінскай, Магілеўскай і Полацка-Віцебскай «даўнін», «Акты, якія адносяцца да гісторыі Заходняй Расіі» (1846—53), «Акты, якія адносяцца да гісторыі Паўднёвай і Заходняй Расіі» (1863—92). Зберагаюцца дарэв і сав. часопісы і газеты, у т. л. газеты «Наша доля» і «Наша ніва», час «Наш край».

У б-цы вядуцца ген. алфавітны каталог кніг на бел. мове, сістэматычны каталог кніг пра Беларусь, гал. даведачныя картатэкі па сав будаўніцтве, дзярж. кіраванні і эканоміцы, картатэкі па гісторыі (з 1917) дзейнасці дзярж. і парт дзеячаў БССР, з'ездаў Саветаў, сесій ЦВК і Вярх. Савета БССР, нар. гаспадаркі (да 1968), фабрык і з-даў (да 1970) Беларусі, картатэка «Хроніка Мінска» (1917—87). Б-ка выдае шэраг бягучых бібліягр. спісаў па пытаннях права, сав. будаўніцтва (з 1949), міжгаліновай эканомікі, нар. гаспадаркі і інш. Сярод рэтраспектыўных паказальнікаў «Саветы дэпутатаў працоўных. 1966—1975» (1977; выд. працягваецца), «У. І. Ленін пра Беларусь» (1970), «Народная гаспадарка БССР. 1917—1963» (1965; выд. працягваецца), «Машынабудаўнічыя прадпрыемствы Беларускай ССР. 1944—1966» (1968); «Перыядычныя выданні Беларусі ў фондзе Урадавай бібліятэкі імя А М. Горкага», ч. 1. Газеты. 1900—1941 гг. (1980); ч 2. Часопісы. 1900—1980 гг. (1980, на вокл. 1981) Б-ка выдае метадычную серыю «Праблемы аптымізацыі бібліятэчна-бібліяграфічнага забеспячэння мясцовых органаў дзяржаўнай улады і кіравання БССР». Мае 2 філіялы і 6 бібліятэчных пунктаў у дзярж установах.

*Літ* Правительственная библиотека им А М Горького Путеводитель Мн, 1983, Издания Правительственной библиотеки им А М Горького Мн, 1983, Герасімаў В Бібліятэчная птушка Фенікс // Полымя 1992 № 6. *В М Герасімаў*

**БІБЛІЯТЭКА ФУНДАМЕНТАЛЬНАЯ БДУ.** Заснавана ў Мінску ў 1921 У 1922 пераўтворана ў аб'яднаную Бел. дзяржаўную і універсітэцкую, у 1926 — у Бел дзярж. б-ку (гл. *Бібліятэка нацыянальная Беларусі*). У 1931 у БДУ сфарміравана новая б-ка. У Вял. Айч. вайну знішчана ням.-фаш захопнікамі Аднаўленне яе фондаў пачалося ў 1943 на ст. Сходня пад Масквой. У 1952 фонд дасягнуў даваен. ўзроўню, на 1992 складаў 2,1 млн. экз. Пры б-цы працуюць 4 факультэцкія і 43 б-кі пры кабінетах і кафедрах. Зберагаюцца асобныя выданні 18—19 ст., кнігі па гісторыі Беларусі, каля 3,5 тыс. дысертацый, абароненых у БДУ. Атрымлівае абавязковы экземпляр кніжнай прадукцыі па профілю ун-та. З'яўляецца метадычным цэнтрам бібліятэк вышэйшых і сярэдніх навуч устаноў Рэспублікі Беларусь

*І. У Арахоўская*

**БІБЛІЯТЭКА ХРАПТОВІЧАЎ.** Існавала з 2-й пал. 18 ст. да пач. 20 ст ў маентку Шчорсы (цяпер Навагрудскі р-н). Заснавана І Л Храптовічам, які набываў кнігі ў час падарожжаў па Францыі, Германіі, Галандыі, Польшчы Калекцыя еўрап выданняў 16—17 ст. набыта з б-кі рымскага кардынала І. Імперыяле. Пасля 1768 набыты кнігазбор заснавальніка Варшаўскай публічнай б-кі біскупа Ю. Залускага. Папоўнілася за кошт збораў з закрытых у канцы 18 — пач. 19 ст кляштараў. Пасля смерці І. Л. Храптовіча (1812) кнігазбор перайшоў да яго сына Адама, які працягваў папаўняць б-ку старадрукамі і новымі выданнямі. Затым кнігазбор належаў яго пляменніку Міхаілу, рус. дыпламату ў Неапалі, Брусселі, Лондане. Ад яго б-ка перайшла да сына сястры М. А. Храптовіча — Буцянева, які разам са сваім братам, уладальнікам Шчорсаў К. А. Храптовічам-Буцяневым, упарадкаваў б-ку, а гісторык С. Л Пташыцкі склаў і выдаў каталог. Налічвала больш за 10 тыс. экз. (ёсць даныя, што каля 20 тыс.), у т. л творы антычных аўтараў, французскай і італьянскай класічнай л-ры, працы па гісторыі Польшчы, Беларусі і Літвы, рукапісы У б-цы працавалі даследчыкі І. Лялевель, Ф. Малеўскі, Я і А. Снядэцкія, У Сыракомля, Ю. Ярашэвіч, яе наведваў А. Міцкевіч. Працаваў бібліятэкарам Я. Чачот У 1913 перададзена на часовае захоўванне Кіеўскаму ун-ту з умовай, што з адкрыццем ун-та на радзіме б-ка будзе вернута. У снеж. 1924 Нар камісарыят асветы БССР звярнуўся да Нар. камісарыята асветы УССР з просьбай вярнуць Б. Х. на Беларусь. Прэзідыум Наркамасветы УССР згадзіўся з просьбай, але па невядомых прычынах гэта не было зроблена. У 1926 рэзалюцыю аб вяртанні б-кі на Беларусь прыняў *Першы з'езд даследчыкаў беларускай археалогіі і археаграфіі* Асн частка Б. Х зберагаецца ў Цэнтр. навук б-цы АН Украіны ў Кіеве. У 1985 Б. Х. заінвентарызавана, улічана 2005 экз. кніг. Зберагаюцца 3 інкунабулы, палеатыпы, віленскія выданні 16 — пач. 19 ст., гродзенскія 18 ст., «Манархія Турэцкая, апісаная Рыко» (Слуцк, 1678) з гравюрамі М. Вашчанкі Значная колькасць кніг згублена. Кнігі з Б. Х. могуць знаходзіцца ў Саратаве і Уфе, куды збор быў вывезены у час войнаў. Большасць захаваных кніг апраўлена ў пераплеты з пергаменту і скуры, зробленыя у 16—18 ст. Амаль на ўсіх кнігах ёсць экслібрысы: ярлыкі з тэкстам ці адбіткі штэмпеля чорнага і чырвонага колераў. Захаваліся надпісы, штэмпелі, наклейкі былых уладальнікаў — кардынала Імперыяле, біскупа Залускага. Рукапісы з Б. Х. захоўваюцца асобнай калекцыяй у аддзеле рукапісаў; са 129 адзінак, улічаных у каталогу Пташыцкага, 16 згублена. Зберагаюцца «Прамовы Яна Храптовіча, навагрудскага кашталяна. .» (18 ст), сеймавыя і сеймікавыя акты, дзённік С. Маскевіча (1594), рукапісная Біблія 15 ст., спіс Статута ВКЛ 1566, праца І Л Храптовіча па гісторыі свайго роду і інш.

*Літ* Онацевич И Отрывок из путевых записок профессора Виленского университета Игнатия Онацевича во время проезда его через одну часть Гродненской губернии в июле и августе 1822 года // Северный архив. 1822. № 24, Пташицкий С Л. Щорсовская библиотека графа Литавора Хрептовича Краткие сведения о собрании рукописей М, 1899, Эрнст Н Библиотека графов Хрептовичей // Рус. библиофил 1914 № 6, Судьба исторической библиотеки // Известия книжных магазинов т-ва М. О Вольф по литературе, наукам и библиографии 1916 № 1, Зварот з Кіева бібліятэкі Храптовічаў // Сав Беларусь 1925 1 лют, [Аб звароце на Беларусь бібліятэкі графаў Храптовічаў-Буцяневых] // Полымя 1925 № 2. С 208, Працы Першага з'езда даследчыкаў беларускай археалогіі і археаграфіі 17—18 студзеня 1926 г. Мн., 1926, Chwalewik E Zbiory polskie. Warszawa, Kraków, 1927 T 2 S 225—228, Цыбуля В А Прыватная бібліятэка Храптовічаў // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі 1973 № 3; Селяменеў В Калі будзе вернута бібліятэка? // Там жа 1989. № 1, Фурс А, Рошчына Т І яшчэ раз пра бібліятэку са Шчорсаў // ЛіМ 1990 9 лістап, Пракопчык Л Шчорсаўскі скарб // Пракопчык Л «Дрэмле памятка дзен » Мн, 1991

*Т І Рошчына, А. П Фурс*

**БІБЛІЯТЭКА ЦЭНТРАЛЬНАЯ АКАДЭМІІ НАВУК ЛІТВЫ.** Заснавана ў 1941 у Вільнюсе на базе збораў евангеліцка-рэфарматарскага сінода, арганізаванага ў сярэдзіне 16 ст (захавалася каля 18 тыс. экз.), Дзярж. публічнай б-кі Урублеўскіх (засн. ў 1925, каля 180 тыс. экз.), б-кі Таварыства сяброў навук. прыватных збораў. Налічвае больш за 3600 тыс. экз. (1988), у т. л. 176,3 тыс экз. рукапісаў, 80 тыс. рэдкіх кніг і старадрукаў, 12 тыс. карт і атласаў. У аддзеле рукапісаў 6 унікальных калекцый пергаментаў, у т. л кірылічныя граматы (ф 2, 1503—1614), 22 калекцыі, створаныя пераважна дзярж і грамадскімі ўстановамі (калекцыя рукапісаў б Віленскай публічнай б-кі, ф. 16—18, 22, 934 адз. 15—19 ст; «Барусіка», ф. 18, 464 адз. 1185—1933, рукапісы і дакументы з Каўнаскага гар. архіва, дзярж. ун-та; калекцыя Віленскага мастацкага музея, ф. 10, 105 адз., 1734—1940, судовыя акты, ф. 20, 6558 адз., 1476—1924; матэрыялы перапісаў нас. Літвы, ф 208, 154 адз., 1934—44; дакументы пра ням. акупацыю 1915—18, 1940—44). У зборы «Рускіх рукапісных кніг» (ф. 19, 329 адз., 11—19 ст.) пераважаюць старажытныя бел. рукапісы, вывезеныя ў 2-й пал. 19 ст з Супрасля, Жыровіч і інш. бел. манастыроў і цэркваў. Сярод рарытэтаў — *Тураўскае евангелле, Мсціжскае евангелле,* Пяцікніжжа, напісанае дзякам кіеўскага мітрапаліта Фёдарам у 1514, Супрасльскі і Слуцкі паменнікі 16—17 ст, куцеінская Мінея 1669 і інш. Сярод рукапісаў Віленскай публічнай б-кі — апісанне межаў ВКЛ і Польшчы 1546, інвентар Друцкага замка 17 ст., кніга Лідскага

гродскага суда 1630—31, акты па гісторыі Магілева, каралеўскія і прыватнаўладальніцкія прывілеі, фундушы, тастаменты, гісторыя берасцейскага базыльянскага манастыра да 1797, дыярыуш Сапегі 1730—31, «Кроника Витебская», зборнікі з арацыямі, актамі, гаспадарчымі і сеймавымі матэрыяламі, літ. творамі. Зберагаецца значная частка рукапісаў з *Беларускага музея* імя І. Луцкевіча (ф. 21, 2308 адз., 1936—1949). Захоўваюцца асн. матэрыялы пра дзейнасць рэфармацыйных аб'яднанняў на Беларусі і ў Літве з сярэдзіны 16 ст., каталіцкай царквы ВКЛ (ф. 43, 28 000 адз., 1391—1940), калекцыя інвентароў і дакументаў маенткаў 16—20 ст., асабістыя зборы бел., літ., рускіх, польскіх вучоных і пісьменнікаў, у т. л. М. Балінскага, В. Біржышкі, А. Вальдэмара, Е. Жугжды, У. Сыракомлі (ф. 109, 65 адз., 1844—62), І. Лапо (ф. 211, 40 адз., 19—20 ст.), П. Пакаркліса, Пілсудскіх, К. Яблонскага. Асобнымі калекцыямі зберагаюцца дакументы і матэрыялы Сапегаў (ф. 139, 5589 адз., 1604—1831), Тышкевічаў (ф 148, 149, 420 адз 1518—1912), Нарбутаў (ф. 124, 52 адз., 1584—1864). У аддзеле рэдкай кнігі (каля 116 тыс. адз.) зборы літуаністыкі, інкунабулы, палеатыпы, «эльзевіры», рэдкія выданні 19—20 ст. У калекцыі кірылічных старадрукаў кн. «Лічбы» 1519 з пражскай «Бібліі» Ф. Скарыны (экз. з Бел. музея ў Вільні), «Граматыка» М. Сматрыцкага (Еўе, 1619), выданні Мамонічаў, бел брацтваў у Вільні і Еўі, Куцеінскай, Гродзенскай і Супрасльскай друкарняў 17—18 ст.

*Літ* Гильтебрандт П Рукописное отделение Виленской публичной библиотеки. Вып. 1 Вильна, 1871, Добрянский Ф Путеводитель по Виленской публичной библиотеке Вильна, 1879, Яго ж Описание рукописей Виленской публичной библиотеки, церковнославянских и русских Вильна, 1882, Описание рукописного отделения Виленской публичной библиотеки Вып. 1—5 Вильна, 1895—1906, Studnicki W G Rys historyczny Archiwum i biblioteki synodu ewangelicko-reformowanego w Wilnie Wilno, 1926, Rankraščių rinkinių rodykle Vilnius, 1977, Feodalinių žemes valdu Lietuvoje inventorių aprašymas / Sudare V Abramavičius Vilnius, 1963, Lietuvos TSR Mokslų akademijos centrines bibliotekos atlasų ir žemelapių katalogas Vilnius 1969, Feigelmanas N Lietuvos inkunabulai [Katalogas] Vilnius, 1975, Козловская Е В Обзор старопечатных изданий кирилловского шрифта в Центральной библиотеке АН Литовской ССР // Из истории академических библиотек Сб науч. тр М, 1983 *Г Я Галенчанка*

**БІБЛІЯТЭ́КА ЦЭНТРА́ЛЬНАЯ НАВУКО́ВАЯ** імя Якуба Коласа АН Беларусі. Заснавана 16.2.1925 у Мінску пры Інбелкульце. З рэарганізацыяй Інбелкульта ў АН БССР (1.1.1929) увайшла ў яе склад. У Вял. Айч вайну разрабавана ням.-фаш захопнікамі, найбольш каштоўная л-ра вывезена ў Германію Адноўлена ў 1944. Імя Я. Коласа прысвоена ў 1956. Да мая 1981 называлася Фундаментальная бібліятэка імя Я Коласа АН БССР. З'яўляецца галаўной у цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэ-

Бібліятэка цэнтральная навуковая імя Якуба Коласа АН Беларусі

ме АН, што аб'ядноўвае 27 б-к пры ін-тах акадэміі. Кніжны фонд 3 млн. экз (на 1993). Па гісторыі атрымлівала ўсе кнігі, што выдаваліся на Беларусі, цэнтр выдавецтвамі СССР, а таксама замежнымі выдавецтвамі. Абменьваецца навук. літаратурай з б-камі і ўстановамі замежных краін. У аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў зберагаюцца пергаменты 16 ст. на бел. мове, кітабы (тэксты на бел. мове арабскай графікай). Сярод старадрукаў кірылаўскага шрыфту «Евангелле вучыцельнае» (Заблудаў, 1569) і «Біблія» (Астрог, 1580—81) І Фёдарава, кнігі з друкарні Мамонічаў у Вільні, «Евангелле» (1575), «Новы запавет з Псалтырам» (Еўе, 1611), «Дыептра» (Магілеў, друкарня Вашчанкаў, 1698), 1-ы слав. слоўнік «Лексікон славянарускі» Памвы Бярынды (Куцейна, 1653), «Катэхізіс» Л. Зізанія (Гродна, 1788). У калекцыі замежных выданняў 15—18 ст. кнігі з лепшых еўрап. друкарань, у т. л. інкунабулы «Сусветная хроніка Хартмана Шэдаля» (Нюрнберг, 1493), «Жыцце і вучэнні людзей, якія праславіліся ў філасофіі, выкладзеныя ў дзесяці кнігах» Дыягена Лаэрцкага (Балонья, 1495) і інш. Сабраны бел. фальклорныя і этнагр. зборнікі 19 ст., выданні па гісторыі Беларусі, напісаныя рус. і польскімі даследчыкамі, энцыклапедычная і даведачная л-ра, краязнаўчыя матэрыялы, бел кнігі і перыядычныя выданні пач 20 ст., калекцыя заходнебел друку. Асобнымі фондамі зберагаюцца б-кі А Я. Багдановіча, П. Н. Беркава, П. Ф. Глебкі, П. К. Панамарэнкі і частка бібліятэкі Радзівілаў. Захоўвае асабістыя архівы Я Брыля, М. Гарэцкага, Ю. Гаўрука, Глебкі, Я. Драздовіча, У. Дубоўкі, Л. Геніюш, У. Караткевіча, К. Крапівы, І. С. Краўчанкі, М. Лынькова, А. Пальчэўскага, С. П. Сахарава, М. М. Улашчыка, Я. Шутовіча і інш. Вядзе навук. і метадычную работу, выдае зборнікі прац па гісторыі кнігі, бібліяграфіі і бібліятэказнаўстве Беларусі, бібліягр. дапаможнікі, у т. л. па навуказнаўстве, гісторыі.

*Літ* Фундаментальная бібліятэка імя Я Коласа АН БССР [Фотанарыс] Мн, 1976, Библиотечное дело и библиография в системе Академии наук БССР (Сб ст) Мн, 1976 *М П Стрыжонак*

**БІБЛІЯТЭ́КІ** (грэч. bibliotheke ад biblion кніга + thekē сховішча), кнігазборы для грамадскага, калект. або прыватнага карыстання; дзярж. ці грамадскія ўстановы, якія функцыяніруюць на аснове такіх збораў (бібліятэчных фондаў), забяспечваюць іх захаванасць, папаўненне (камплектаванне), абслугоўванне чытачоў. Першыя звесткі пра Б. адносяцца да н. э. (Егіпет, Кітай). Найбольш вядомай б-кай антычнага свету была Александрыйская (заснавана Пталамеем І Сотэрам у 3 ст. да н. э., мела да 700 тыс. кніг-скруткаў, згарэла ў час Александрыйскай вайны 48—46 да н. э.). Сярод рымскіх Б. вылучаліся Палацінская, заснаваная ў 28 да н. э. Аўгустам (стала ўзорам для пазнейшых Б.), Актавіянская (закладзена Аўгустам), Ульпія на Форуме (заснавана Траянам). Вял. б-ку сабралі візантыйскія імператары ў Канстанцінопалі (заснавана пры Канстанціне II каля 356 н. э., налічвала больш за 36 тыс. назваў, згарэла ў 736). У раннім сярэдневякоўі ў Еўропе пераважалі манастырскія, кафедральныя і капітульныя Б. Кнігазборы ствараліся пры дварах пануючых асоб кіеўскага князя Святаслава, французскага караля Людовіка X, князёў бургундскіх, арлеанскіх і інш. У 12—13 ст. пачалі ўзнікаць універсітэцкія Б. (Балоння, Парыж, Оксфард, Падуя). На Усходзе ў сярэдневякоўі ўсе Б., нават кнігазборы ў палацах халіфаў, былі публічныя, і яны прадастаўлялі чытачам таксама паперу, чарніла і перы для пісання Халіф Харун ар-Рашыд у 8 ст. і яго сын аль-Мамун (9 ст.) заснавалі ў Багдадзе палацавую б-ку «Дом мудрасці» — найбольшую б-ку ісламскага свету, якая налічвала каля 1 млн. рукапісаў (разбурана разам з горадам пры нашэсці манголаў у 1258). Колькасць Б. значна павялічылася пасля вынаходства і пашырэння *кнігадрукавання*. У 15—16 ст. ствараліся гуманістычныя Б., напрыклад, каралеў Арагонскіх у Неапалі, Карла VIII і Людовіка XII французскіх, графа Альбрэхта фон Эйба ў Германіі. Венгерскі кароль Мацей Корвін сабраў у Будзе ў канцы 15 ст. калекцыю кніг у багатых абкладах і ілюмінаваных рукапісаў, якая мела рэнесансавы характар. Значныя кнігазборы склаліся пры новых універсітэтах, што ўзніклі ў 14—16 ст у Празе, Кракаве, Лейпцыгу, Інгальштаце, Вітэнбергу, Кенігсбергу і інш. У 17 ст. тэарэтыкі бібліятэказнаўства распрацавалі праграму ператварэння Б. у агульнадаступныя, прыстасаваныя для грамадскіх патрэб Першая б-ка новага тыпу — т зв. Мазарыні ў Францыі (1645). Нямецкі філосаф В. Г. Лейбніц (1646—1716), які быў прыдворным бібліятэкарам у Гановеры і Вольфэнбютэлі, распрацаваў сістэму прадметнай расстаноўкі фондаў вял. б-кі, абгрунтаваў неабходнасць пастаяннага грашовага акладу для бібліятэкара і сістэматычнага папаўнення збораў на аснове акрэсленага гадавога бюджэту. Поруч з пастаянна растучай колькасцю прыватных кнігазбораў пашыралася колькасць публічных Б. У 1735 агуль-

надаступнай стала каралеўская б-ка ў Парыжы, у 1759 — б-ка Брытанскага музея ў Лондане, у 1814 — імператарская публічная б-ка ў Пецярбургу (зараз *Бібліятэка нацыянальная расійская)*. У 1714 заснавана бібліятэка Акадэміі навук у Пецярбургу. З 1862 існуе б-ка ў складзе Маскоўскага публічнага Румянцаўскага музея (зараз *Бібліятэка дзяржаўная расійская)*. Адной з лепшых навуковых Б. у Еўропе была універсітэцкая ў Гетынгене (засн. ў 1736). У 19 ст. ўзнікаюць спецыялізаваныя Б.— медыцынскія, вайск., тэхн., музычныя, для сляпых і інш. Найбольш значныя з сучасных замежных Б.: Кангрэса ЗША ў Вашынгтоне, Нацыянальная ў Парыжы, Брытанскага музея ў Лондане і інш.

На тэр. Беларусі Б. пачалі складвацца пры цэрквах з 11 ст. Сярод найб. старажытных — *бібліятэка Полацкага Сафійскага сабора*. Абавязковы набор богаслужэбных і цэцціх кніг у праваслаўнай царкве вызначаў Статут альбо Ціпікон (у 11—13 ст. Ціпікон Вялікай Царквы, для манастыроў — Студыйскі Статут; з 14 ст.— Іерусалімскі Статут, які з некаторымі зменамі існуе і сення). У царкоўных Б. захоўваліся і кнігі свецкага зместу У 18—19 ст. царк. кнігазбор у сярэднім складаўся з 10—30 кнігадрукаў і рукапісаў, бедныя храмы замест патрэбнага набору часам мелі толькі 1—2 кнігі. Асноўны масіў кніг захоўваўся ў Б. манастырскіх (кляштарных). Напрыклад, у 1494 б-ка Слуцкага Траецкага манастыра налічвала 45 кніг, Супрасльскага манастыра ў 1557—211 кніг, Пінскага Ляшчынскага манастыра — 34 кнігі. У канцы 16—18 ст. склалася сістэма Б. ордэна базыльян, асновай якіх найчасцей былі Б. праваслаўных манастыроў. Дзейнасць базыльянскіх Б. (да пач. 19 ст. іх налічвалася больш за 60) рэгламентаваў Статут, складзены ў 1617 мітрапалітам І. В. Руцкім. Пасада бібліятэкара (ён жа і архіварыус) давяралася спец. манаху (хартафілаксу), які адказваў за захаванасць фонду і прысягаў, што не будзе кнігі ні прадаваць, ні закладаць, ні пазычаць. Адзін з пунктаў Статута патрабаваў, каб бібліятэкар пільна сачыў за тым, якіх кніг яшчэ бракуе ў манастырскім кнігазборы і прымаў захады па іх камплектаванні. Абавязкова вёўся каталог з пазначэннем месца кнігі на паліцы (шыфру); расстаноўка фонду ўжывалася сістэматычная, а ў кожным тэматычным раздзеле — фарматная (вылучалі 4 фарматы). Цэнтральныя Б. базыльян былі ў Віленскім Святатраецкім, Жыровіцкім і Супрасльскім манастырах. Кожная з іх налічвала некалькі тысяч кніг, а таксама нот, карт, эстампаў. Невялікія Б. былі практычна ва ўсіх базыльянскіх манастырах. Паводле вопісаў маемасці 1822—24, у Селцкім манастыры (Рэчыцкі пав.) было 102 тамы, Сухавіцкім (Рэчыцкі пав.) — 103 тамы, Мірскім, Дараўскім і Лаўрышаўскім (усе Навагрудскі пав.) — адпаведна 34, 207 і 600 тамоў.

Вял. кнігазборы мелі каталіцкія кляштары: кармелітаў у Глыбокім, дамініканскія ў Гродне і Шклове, піярскія ў Шчучыне і Драгічыне, бернардзінскі ў Слоніме, аўгусціянскі і трынітарскі ў Брэсце. Найбольш значныя пратэстанцкія Б. былі ў Слуцкай кальвінісцкай калегіі і ў Смаргонскім зборы, якому ахвяраваў у 1611 свае кнігі староста чарэйскі і прапойскі Крыштаф Зяновіч.

З 16 ст. існуюць Б. навуч. устаноў. Найбольшай з іх была б-ка Віленскай акадэміі (зараз *бібліятэка навуковая Вільнюскага універсітэта)*, больш за 40 тыс. кнігадрукаў захоўвала *бібліятэка Полацкай езуіцкай акадэміі*. У 18 ст. існавалі Б. езуіцкіх, базыльянскіх і піярскіх вучылішчаў, Б. калегій у Гродне, Брэсце, Мінску, Слуцку, Навагрудку, Бабруйску, Мазыры Пінску, Паставах, Халопенічах і інш. У 18—19 ст. Б. мелі гімназіі, Горы-Горацкі с.-г. інстытут. Віленская навуч. акруга ў 1894 мела 733 Б. пры нар. вучылішчах.

Першыя пісьмовыя звесткі аб прыватных Б. на Беларусі датуюцца канцом 15 — пач. 16 ст. Вядома б-ка навагрудскага ваяводы, канцлера ВКЛ Альбрэхта Гаштольда, які заказваў кнігі перапісчыкам (напрыклад, Мацею з Драгічына ў Кракаве), меў кнігі лац., польскія і чэшскія, а найб. кірылічных славянскіх. Кнігазбор Гаштольда перайшоў у віленскую б-ку Жыгімонта II Аўгуста. Самымі вял прыватнымі Б. 16—18 ст. на Беларусі былі *бібліятэка Радзівілаў* у Нясвіжы, *бібліятэкі Сапегаў, бібліятэка Храптовічаў,* слуцкіх князёў Алелькавічаў, магнатаў Солтанаў і інш. У 16—18 ст. склалася некалькі вял. прыватных Б. духавенства. мітрапалітаў Габрыэля Каляды (Календы), Фларыяна Грабніцкага, полацкага архіепіскапа Ясона Смагажэўскага, віленскага біскупа Валерыяна Пратасевіча (ахвяравана на Віленскі універсітэт), архіепіскапа тураўскага і пінскага Грыгорыя [рэестр яго б-кі (51 славянская і 39 лац. кніг) склаў у 1631 Сільвестр Каглоба]. Меншымі былі кнігазборы гараджан і ніжэйшага духавенства — берасцейскага мешчаніна Гурына Фёдаравіча (1624), віленскага бурмістра Сцяпана Лябедзіча (1649). Некалькі рукапісных і друкаваных кніг упамінаецца ў тастаменце святара Юр'еўскай царквы ў Вільні Георгія (1522). У 19 — пач. 20 ст. павялічваецца колькасць прыватных Б. інтэлігенцыі, у т. л. Ашторпаў у Дукоры (Ігуменскі пав.), Беніслаўскіх у Быхаве, Валіцкіх у Азерах (Гродзенскі пав.; канфіскавана ў 1864, зараз у Цэнтр. б-цы АН Літвы), магілёўскага архіепіскапа Варлаама (Шышацкага; у 1820 перайшла ў б-ку Пецярбургскай духоўнай акадэміі), Мікалая Вольскага ў Кошках (каля Беластока), дырэктара Магілёўскай псіхіятрычнай бальніцы П. Т. Віктарава (8 тыс. тамоў; у 1910 падаравана Маскоўскаму нар. ун-ту імя Шаняўскага), ксяндза Геніюша ў Луніне Пінскага пав. (захоўваў рэшткі кнігазбору картэзіянскага кляштара ў Бярозе; пасля яго смерці распрададзены), П. М. Гаховіча ў Тураве, І. Х. Каладзеева ў Новабарысаве (больш за 10 тыс. кніг, лістовак і інш. друкаваных матэрыялаў пра Айч. вайну 1812), Масальскіх у Белічанах, Слізняў у Мсцібжы Барысаўскага пав., Г. Х. Татура ў Мінску, А. Трамбіцкага ў Лінове Пружанскага пав. (уключала кнігазбор славіста М. Баброўскага; у 1861 куплена для б-кі Ардынацыі Замойскіх, згарэла ў 1939 і 1944 у Варшаве), Тышкевічаў у Лагойску, Т. С. Урублеўскага ў Вільні (уключала збор І. Наргелевіча з Навагрудскага пав.; зараз у Цэнтр. б-цы АН Літвы), Б. І. Эпімаха-Шыпілы ў Пецярбургу, Юндзілаў у Івацэвічах і інш.

У 19 — пач. 20 ст. ў гарадах Беларусі ствараюцца публічныя Б. ў Гродне (1830, 1863), Магілеве (1833, 1861), Мінску (1845, 1900), Віцебску (1857) і інш. Найбольшай публічнай б-кай у краі была Віленская. На сродкі выдаўца Ф. Ф. Паўленкава ствараліся паўленкаўскія Б., у т. л. *Астрамечаўская бібліятэка імя Ф. Ф. Паўленкава*. У 1913 на Беларусі была 851 масавая Б. з кніжным фондам 423 тыс. тамоў. У 1922 утворана аб'яднаная Беларуская дзярж. і універсітэцкая б-ка (гл. *Бібліятэка нацыянальная Беларусі*), яе філіялы ў Віцебску (1925), Гомелі (1933), Магілеве (1928) і пры Доме ўрада (1933, гл. *Бібліятэка ўрадавая Рэспублікі Беларусь*); у 1938 створаны абласныя Б. У 1925 заснавана б-ка пры Інбелкульце (гл. *Бібліятэка цэнтральная навуковая* імя Я. Коласа). На пач. 1941 на Беларусі былі 4172 масавыя Б. з кніжным фондам 5028 тыс. тамоў. У Вял. Айч. вайну амаль усе Б. былі разбураны, большасць кніжнага фонду страчана. Аднаўленне Б. ішло хуткімі тэмпамі і ўжо ў 1950 іх колькасць і агульны кніжны фонд перавысілі даваен. ўзровень. На канец 1991 на Беларусі каля 6,1 тыс. масавых Б. з кніжным фондам каля 90 млн. тамоў; існуюць спецыялізаваныя Б., у т. л. гіст. і краязнаўчага профілю, Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі, абл. і раённых краязн. музеяў, гіст факультэта БДУ і інш.

Вывучэнне фондаў сучасных Б. як крыніцы па розных галінах гісторыі Беларусі, а таксама вывучэнне старых кнігазбораў як фактаў культуры пэўнага часу з'яўляецца адной з гал. задач бібліятэказнаўства. Важнае значэнне пры гэтым мае рэканструкцыя складу Б. вядомых дзярж. і грамадскіх дзеячаў, навукоўцаў (Жыгімонта II Аўгуста, Саламона Рысінскага, Радзівілаў і інш.). Адзнакай прыналежнасці кнігі да б-кі служаць бібліятэчныя запісы, штампы і шыфры, а таксама *экслібрысы* і суперэкслібрысы. Найбольш раннія — ахоўныя надпісы на кнігах, што ўкладзены ў цэрквы і манастыры; у 16—17 ст. распаўсюдзіліся гравіраваныя экслібрысы, у 18 — пач. 19 ст. побач з экслібрысамі-наклейкамі з'яўляюцца экслібрысы-пячаткі, іх выкарыстоўвалі прыватныя асобы і манастырскія Б. У 20 ст., калі экслібрысы даволі пашырыліся, яны сталі прадметам калекцыяніравання, што ня-

рэдка прыводзіць да псавання старых кніг. Важнай крыніцай для кнігазнаўства і гісторыі культуры ўвогуле з'яўляюцца маргіналіі — запісы чытачоў на палях кніг уласных Б. Яны ўлічваюцца пры навук. апісанні б-кі, часам нават асобна выдаюцца (паметы Ф. Вальтэра, Г. Пляханава і інш.). Сення на першае месца выходзіць задача рэканструкцыі гістарычных Б.

*Літ*: Библиотеки СССР общественно-политического, филологического и искусствоведческого профиля Справ М, 1969, Библиотеки Белоруссии. Справ. 2 изд Мн, 1988, Библиотечное дело в БССР (Из истории библиотек республики) Мн, 1969, К истории библиотечного дела в Белорусской ССР Мн, 1975, Библиотечное дело в Белоруссии (1919—1979 гг.)· (сб ст) Мн, 1980, Библиотечное дело в Белоруссии (XVI в — 1917 г) Библиогр. указ / Сост Л Н. Новицкая. Мн., 1982, Владимиров Л И Очерки по истории книги и библиотек в Литве до 1917 г Вильнюс, 1965, Голенченко Г. Я. Крупные светские частновладельческие библиотеки Белоруссии и Литвы второй половины XVI — середины XVII в // Федоровские чтения 1982 М, 1987, Biblјoteki Wilenskie Wilno, 1932, Kisarauskas V Lietuvos knygos ženklai, 1518—1918. Vilnius, 1984, Kawecka-Gryczowa A Biblioteka ostatniego Jagiellona Wrocław etc, 1988, Pidłypczak-Majerowicz M Bazyliane w Koronie i na Litwie Szkoły i książki w działalności zakonu Warszawa, Wrocław, 1986 (Acta Universitatis Wratislaviensis, № 779), Radziszewski F Wiadomość historyczno-statystyczna o znakomitszych bibliotekach i archiwach Krakow, 1875 *М В. Нікалаеў*

**БІБЛІЯТЭ́КІ САПЕГАЎ.** Існавалі ў 16—18 ст. у Слоніме, Ружанах (Пружанскі р-н), Дзярэчыне (Зэльвенскі р-н), Кодані (цяпер Польшча). Другі па велічыні прыватны кнігазбор на Беларусі (пасля *бібліятэкі Радзівілаў)*. Пачатак кнігазбору дала ружанская б-ка канцлера вял. літоўскага Л. Сапегі, якую павялічыў яго сын Казімір Леў. У 18 ст. ружанскі збор пераведзены ў Дзярэчын і значна папоўнены Аляксандрам, Міхалам, Францыскам Сапегамі. Б-ка ў Кодані вырасла дзякуючы бібліяфільству канцлера вял. літоўскага Яна Фрыдэрыка і Аляксандра Сапегаў. У ей найб. поўна прадстаўлена л-ра па юрыспрудэнцыі, гісторыі, паэзіі, мовазнаўстве, геаграфіі, тэалогіі. Акрамя кнігазбору ў ей былі архіў стараж. актаў, калекцыя гравюр. У 1644—45 вял. колькасць кніг К. Л. Сапега ахвяраваў б-цы Віленскай езуіцкай акадэміі. У 1810 А. Сапега коданскую б-ку перадаў варшаўскаму Т-ву аматараў навук, у 1834 дзярэчынская б-ка і архіў вывезены ў С.-Пецярбург. Захаваліся вопісы на асобныя часткі Б. С., экслібрысы некаторых уладальнікаў кнігазбору. Большая частка Б. С. збeрагаецца ў Расійскай нацыянальнай б-цы (Санкт-Пецярбург), б-цы Вільнюскага ун-та, рэшта — у б-цы Расійскай АН (Санкт-Пецярбург), б-цы Варшаўскага ун-та і інш. сховішчах.

*Літ* Иконников В С Опыт русской историографии. Киев, 1891 Т 1, кн 1 С 784, кн. 2. 1892 С 1237—1238, Нікалаеў М Аблічча сярэдневяковай бібліятэкі Кнігазборы Сапегаў // Мастацтва Беларусі 1985 № 7 *М В Нікалаеў*

Я А Бірбраер.

**БІЛЕ́ЦКІ** Мікалай Станіслававіч [сапр Язерскі Павел Сямёнавіч; 17(29). 12.1896, Пецярбург — 29.3.1919], беларускі журналіст, удзельнік барацьбы за ўстанаўленне сав. улады ў Гомелі. З сям'і ўраджэнца Гомельшчыны, удзельніка руска-турэцкай вайны 1877—78 ген.-лейт. С І. Язерскага. Вучыўся на юрыд. ф-це Петраградскага ун-та (1913—16), адкуль прызваны на ваен. службу. Скончыўшы ваен.-інжынернае вучылішча (1916), прапаршчык Б. накіраваны на Паўн.-Зах. фронт у 3-ю асобую пях. дывізію ў Дзвінску. Чл. РСДРП (б). У ліп. 1917 чл. палкавога к-та. Са студз. 1918 супрацоўнік Наркамата юстыцыі РСФСР У ліп — снеж 1918 на Усх. фронце (27-я стралк. дывізія). Са студз. 1919 у Гомелі, арганізатар і рэдактар газ. «Известия революционного комитета г. Гомеля и уезда», аўтар многіх яе публіцыстычных артыкулаў. Член Гомельскага Савета і гар. к-та РКП(б), узначальваў саюз сав. журналістаў Гомеля (заснаваны 27. 1.1919). Закатаваны ў час *стракапытаўскага мяцяжу 1919* у Гомелі. Пахаваны ў брацкай магіле гомельскіх камунараў. Яго імем названа вуліца ў Гомелі.

**БІРА́ЛА** Альберт Апанасавіч (16.7.1932, г. Чэрвень — 22.11.1974), беларускі філосаф. Канд. філас. навук (1959). Скончыў БДУ імя Леніна (1955) З 1961 дацэнт кафедры філасофіі і логікі БДУ. Даследаваў погляды утапічных камуністаў Францыі 18 ст. (Мелье, Марэлі, Мablі), гісторыю філас. і грамадска-паліт. думкі Беларусі. Абгрунтаваў важны для метадалогіі гісторыі філасофіі Беларусі і Літвы т. зв. тэрытарыяльны прынцып, паводле якога неабходна вывучаць духоўныя каштоўнасці, створаныя дзеячамі культуры небеларусамі, калі іх жыццё і творчасць праходзілі на тэр. Беларусі і Літвы. Прааналізаваў найб. значныя і тыповыя прыродазнаўчыя, філас., гісторыка-сацыялагічныя, этычныя, прававыя і паліт. вучэнні і ідэі канца 17 — сярэдзіны 18 ст. Вызначыў светапогляд выдатных вучоных эпохі Асветы і даў яскравую карціну развіцця навукі канца 18 — пач. 19 ст. на Беларусі і ў Літве, калі гэта эпоха ў астраноміі, матэматыцы і біялогіі дасягнула сусв. ўзроўню. Адзін з першых на Беларусі звярнуўся да вывучэння грамадскай псіхалогіі, спрабаваў на аснове аналізу мемарыяльнай л-ры рэканструяваць грамадскую псіхалогію дваранства Беларусі і Літвы ў сярэдзіне 18 ст, паказаў, што прагрэс. традыцыі бел. грамадскай думкі і росквіт нац. культуры Беларусі бяруць свае вытокі ў канцы 18 ст., калі светапоглядная асновай прыродазнаўчых і грамадскіх навук сталі асветніцкія ідэі

*Тв*. Философская и общественная мысль в Белоруссии и Литве в конце XVII — середине XVIII в Мн., 1971, Философские проблемы в науке эпохи просвещения в Белоруссии и Литве Мн, 1979; Очерки истории философской и социологической мысли Белоруссии (до 1917 г) Мн, 1973 (у сааўт) *Я В Петушкова*

**БІРБРА́ЕР** Яўген Абрамавіч (1912, Гомель — 6.10.1943), Герой Сав Саюза (1948). Скончыў Ленінградскі ін-т журналістыкі (1934), курсы «Выстрал» (1942). Удзельнік сав.-фінляндскай вайны 1939—40. У Вял Айч. вайну з 1941 на Сталінградскім і Сцяпным франтах. Камандзір мінаметнай роты ст. лейтэнант Б. вызначыўся ў вер. 1943 пры фарсіраванні Дняпра ў Днепрапятроўскай вобл. На захопленым плацдарме рота пад яго камандаваннем мінаметным агнем падтрымлівала пераправу асн. сіл палка, адбіла 12 контратак праціўніка Загінуў у баі. Пахаваны ў с. Барадаеўка Верхнедняпроўскага р-на Днепрапятроўскай вобл.

**БІ́РЖЫ** (ням. Bőrse ад позналац bursе кашалек), форма рэгулярна дзеючага таварнага рынку масавых заменных тавараў (таварныя Б), а таксама заменных каштоўных папер і замежнай валюты (фондавыя і валютныя Б.). На Беларусі ў дасав. час існавалі 2 таварныя Б. У 1906 мясц. лесапрамыслоўцы стварылі Мінскую лясную біржу (для гандлю лесам), якая ў 1912 пераўтворана ў агульнатаварную. Аб'ем яе гандлю дасягаў 10 млн. руб. У 1913 адкрыта Віцебская таварная біржа (выразнай спецыялізацыі не мела, але арыентавалася на гандаль ленам). З пачаткам 1-й сусветнай вайны іх дзейнасць спынілася. Пасля Кастр. рэвалюцыі для вывучэння кан'юнктуры рынку, арганізацыі тавараабароту, дзярж. ўздзеяння на прыватны рынак створаны 4 таварныя Б.: у 1922 Віцебская, Мінская, Гомельская, у 1925 Магілеўская. Яны выконвалі арганіз., уліковую і кантрольна-тэхн. функцыі. Дзейнічалі на аснове Статута, зацверджанага Саветам працы і абароны СССР. Кіраўніцтва Б. ажыццяўляў Камунутргандаль (Наркамгандаль). Вышэйшымі органамі кіравання Б. былі агульны сход яе членаў і біржавы камітэт (пастаянна дзеючы орган), у якім былі прадстаўлены буйныя сацыяліст. гасп. арг-цыі. Са стварэннем Б. усе гасп. здзелкі ўнутры дзярж. сектара, паміж

дзярж. і прыватным сектарам падлягалі абавязковай рэгістрацыі. Б. маглі забараняць здзелкі, якія прычынялі эканам. страты дзяржаве. Частка гасп. здзелак ажыццяўлялася непасрэдна праз Б. Праз іх адбываўся і тавараабмен паміж БССР і інш. рэспублікамі. Вывучаючы кан'юнктуру рынку, выяўляючы заканамернасці яе змены і ўносячы адпаведныя прапановы ў органы рэгулявання цэн, Б. аказвалі ўплыў на ўзровень цэн на ўнутр рынку рэспублікі Хуткімі тэмпамі рос сукупны біржавы абарот за 1922/23 — 1925/26 ен павялічыўся з 14,3 да 121 млн. руб У 1925/26 Б. ахоплівалі 59,3 % аптовага тавараабароту БССР. У 2-й пал. 1920-х гадоў па меры нарастання непасрэднага планавага ўздзеяння дзяржавы на ўнутр рынак дзейнасць Б. згортвалася, у пач 1927 яны ліквідаваны.

Аднаўленне біржавага гандлю на Беларусі пачалося ў 1991, калі цэнтр. рэсп. ведамствамі была заснавана Бел. універсальная біржа Функцыяніруюць таксама рэгіянальныя Б. ў Мінску, Магілеве, брокерскія канторы на ўсіх буйных прамысл. цэнтрах. Абарот гандлю на бел. Б. вагаецца ад 1 да 4 млн руб (1991), кацiроўка цэн не наладжана У адрозненне ад класічных Б сучасныя ўстановы біржавага гандлю не маюць спецыялізацыі, што, па-сутнасці, ператварае іх у аукцыены з атрыбутыкай Б Усеагульны дэфіцыт на рынку і захаванне пазарыначных форм размеркавання рэсурсаў перашкаджае больш шырокаму развіццю біржавага гандлю як неабходнага этапу да пераходу на сучасныя рынкачныя адносіны

*Літ* Экономика Белоруссии в эпоху империализма, 1900—1917 Мн, 1963, Развитие экономики Белоруссии в 1921—1927 гг Мн, 1973 *Л М Міхневіч*

**БІРУКО́Ў** Адам Андрэевіч (н. 21.11.1914, в. Ядраная Слабада Клічаўскага р-на), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў маладзежнага падполля і партыз руху ў Гомельскай і Пінскай абл у Вял Айч. вайну Скончыў Рагачоўскі настаўніцкі ін-т (1940). З 1940 сакратар Рагачоўскага РК ЛКСМБ З 15.8 1941 сакратар Рагачоўскага падп. РК ЛКСМБ і чл Рагачоўскага падп РК КП(б)Б (да 1 6 1943), адначасова з 19 8 1941 — сакратар *Гомельскага падпольнага абкома ЛКСМБ,* з ліст 1941 камандзір партыз групы, камісар атрада № 255, у лют — ліп. 1943 — 8-й Рагачоўскай партыз брыгады З 2.8.1943 да 14.7.1944 1-ы сакратар *Пінскага падпольнага абкома ЛКСМБ,* адначасова з 1.9.1943 да 30 3.1944 чл. Жабчыцкага падп. РК КП(б)Б. 3 ліп. 1944 да 1946 1-ы сакратар Пінскага абкома ЛКСМБ. Скончыў ВПШ пры ЦК КПСС (1958). У 1947—83 на парт. і гасп. рабоце. Дэп. Вярхоўнага Савета БССР у 1959—63 Засл работнік культуры БССР (1980).

**БІРУ́ТА** [сапр Даравінская (Derewińska)] Амелія (1863, в. Ройсталі, цяпер у межах Вільнюса — 27 7 1891), беларуская і польская фалькларыстка і этнограф. Адукацыю атрымала ў Варшаве. Настаўнічала ў Лідскім пав., дзе запісвала бел фальклор і праводзіла этнагр назіранні. У 1889 надрукавала ў краязнаўчым час. «Wisła» («Вісла») нарыс «Дажынкі на Літве», у якім апісала жніўны абрад з песнямі ў в Шаўры Лідскага пав., паданні «Сосны ў Лідзе», «Пра касцел святой Ганны ў Вільні», «Паданне пра Плакальскую гару» (у Ваўкавыскім пав.). У час. «Zbiór wiadomości do antropologii krajowej» («Збор звестак па айчыннай антрапалогіі», 1892, т. 16) пасмяротна апублікаваны «Беларускія песні з Лідскага павета», куды ўвайшлі 24 тэксты пазаабрадавай лірыкі, а ў час. «Wisła» (1899, т. 13) — нарыс «Над прускай граніцай» з апісаннем жыццёвага ўкладу літоўцаў паўд -зах частк Ковенскай губ Падрыхтавала манаграфію «Народ Лідскага павета» («Апісанне Лідскага павета»), якую цэнзура забараніла друкаваць (не захавалася). Асобныя рукапісы, дакументы, звязаныя з дзейнасцю Б. захоўваюцца ў ЦДГА Літвы (фонд Я Карловіча) і ў Варшаве

*Літ* Саламевіч Я Даследчыца беларускага фальклору // Полымя 1969 № 11, Васілевіч У А Біруга // Васілевіч У А Збіральнікі Мн, 1991

*У А Васілевіч, І У Саламевіч*

**БІ́СКУП,** духоўны сан у каталіцкай царкве, які адпавядае сану *епіскапа* ў праваслаўнай царкве. Часта біскупамі называлі епіскапаў грэка-каталіцкай (уніяцкай) царквы.

**БІ́ТВА ЗА ДНЯПРО́ 1943** у Вялікую Айчынную вайну, наступальныя аперацыі сав. войск у жн.— снеж. 1944 з мэтай вызвалення Левабярэжнай Украіны, Данбаса, Кіева, выхаду да Крыма і Дняпра ў яго сярэднім цячэнні, фарсіравання яго з ходу і захопу плацдармаў на правым беразе Удзельнічалі франты Цэнтральны (камандуючы ген арміі К. К. *Ракасоўскі*), Варонежскі (ген. арміі М. Ф Ватуцін), Сцяпны (ген. арміі І. С. Конеў), Паўд.-Заходні (ген. арміі Р. Я. Маліноўскі) і Паўднёвы (ген.-палк., з 21 вер. ген. арміі Ф. І Талбухін); з 20 кастр. адпаведна Бел, 1-ы, 2, 3 і 4-ы Укр. франты. Адначасова Заходні фронт (ген. арміі В. Д. *Сакалоўскі*) і левае крыло Калінінскага фронту (ген. арміі А. І. *Яроменка*) павінны былі наступаць на смаленскім напрамку, каб не даць ворагу магчымасці перакідваць войскі з гэтага ўчастка.

Гітлераўцы стварылі магутны стратэгічны рубеж абароны «Усходні вал» на лініі ад вусця Нарвы да Азоўскага мора, у якім асабліва моцная абарона будавалася на правым беразе Дняпра, у яго сярэднім цячэнні. На гэтым рубяжы сав войскам процістаялі частка сіл групы армій «Цэнтр» (ген.-фельдмаршал Г Клюге) і асн. сілы групы армій «Поўдзень» (ген.-фельдмаршал Э. Манштэйн) Па развіцці падзей бітва падзяляецца на 2 этапы. На 1-м этапе (жн — вер 1943) Чырвоная Армія разграміла ням -фаш войскі на Левабярэжнай Украіне і ў Данбасе, выйшла да Дняпра ў яго сярэд нім цячэнні (ад вусця р Сож да Запарожжа і на р. Малочная), захапіла шэраг плацдармаў па правым беразе Дняпра і сарвала планы ворага па арганізацыі абароны на гэтым рубяжы. На 2-м этапе (кастр.— снеж. 1943) сав. войскі разграмілі сілы гітлераўцаў у сярэднім і ніжнім цячэнні Дняпра, вызвалілі Кіеў, стварылі плацдармы стратэгічнага значэння і адбілі ўсе спробы ворага аднавіць абарону па Дняпры (гл. таксама *Гомельска-Рэчыцкая аперацыя 1943)*

У ходзе аперацыі вызвалена 38 буйных населеных пунктаў, у т л гарады Беларусі Гомель, Ветка, Брагін, Добруш, Лоеў, Нароўля, Рэчыца, Хойнікі і інш. Значную дапамогу наступаючым сав войскам аказалі партыз. атрады і злучэнні Украіны, Гомельскай і Палескай абл Беларусі. Яны захоплівалі і ўтрымлівалі да моманту фарсіравання сав часцямі ўчасткі на рэках Дняпро, Дзясна, Прыпяць, Сож, будавалі масты і пераправы, выводзілі са строю чыгункі і гэтым зрывалі планы ворага па перавозцы войск і ваен грузаў. У выніку дзейнасці партызан на тэр. Беларусі ў жн — вер 1943 перавозкі для варожай групы армій «Цэнтр» скараціліся на 40 % (гл *«Рэйкавая вайна»)* 2438 удзельнікам бітвы прысвоена званне Героя Сав Саюза, з іх каля 700 чал вызначыліся на тэр Беларусі Фарсіраванне Дняпра адначасова сіламі 4 франтоў з'явілася выключнай падзеяй Вял Айч вайны, якая ўзбагаціла Чырв. Армію вопытам пераадолення буйных водных перашкод з ходу. Бітва за Дняпро стварыла ўмовы для поўнага вызвалення Правабярэжнай Украіны і Беларусі.

*Літ* История второй мировой войны, 1939—1945 Т 7 М, 1976, Смотрицкий Е А Битва за Днепр М, 1983

*А С Харэбін*

**БІ́ТВА КАЛЯ́ СІ́НІХ ВОД 1362.** Адбылася паміж войскамі ВКЛ і аб'яднаным войскам Крымскай, Перакопскай і Ямбалукскай ордаў на р Сінюха (Сінія Воды; левы прыток Паўд Буга) Гэта бітва была гал. падзеяй у наступленні ВКЛ на падпарадкаваныя татарам землі паўд.-зах Русі У 1362 вял кн. ВКЛ Альгерд, выкарыстаўшы паляпшэнне адносін з Каралеўствам Польскім і крыжакамі, выступіў супраць ардынскага панавання ў міжрэччы Дняпра і Дуная. Войска было сабрана на Беларусі і значна папоўнена апалчэнцамі з Валыні і Кіеўшчыны. Восенню Альгерд з войскам рушыў з Кіева на зах .Падолле Войска татараў, якое ўзначалілі князі Кутлубуг, Качубей (Качыбей, Хачыбей) і Дзімітр — «отчычы і дзедзічы Падольскай зямлі», дзялілася на 3 палкі Альгерд паставіў «шэсць палкоў» у лінію глыбокай абароны ў некалькі радоў, што не давала магчымасці варожай конніцы зайсці ў тыл. Татарскае войска вымушана было распачаць франтальны бой. Легка адбіўшы націск татараў, войскі Альгерда нанеслі ўдары ў цэнтр фронту і па флангах Пасля нядоўгага бою супраціўленне татараў было зламана, яны ратаваліся ўцёкамі У час пагоні быў захоплены абоз ардынцаў.

Удзел у бітве браў кн. Альгерд. Асабліва вызначыліся ратнікі з Навагародка, якімі камандавалі *Карыятавічы.* Пасля бітвы рэшткі татарскай конніцы падаліся на Дунай і далей у Дабруджу, а кн. Альгерд пайшоў углыб іх уладанняў да вусцяў Дняпра і Паўд. Буга. У выніку гэтай перамогі падуладныя татарам землі зменшыліся, ВКЛ пашырыла сваю тэр. да вусцяў Дняпра і Днястра, замацавала ў сваім складзе Чарнігава-Северскія землі, Падолле, Валынскае і Кіеўскае княствы. Пачалося вызваленне ўсходнеслав. зямель ад ардынскага панавання.

*Літ* Антонович В Б Очерк истории Великого княжества Литовского до половины XV столетия Вып 1 Киев, 1878; Шабульдо Ф М Земли Юго-Западной Руси в составе Великого княжества Литовского Киев, 1987 *Г М Сагановіч.*

**БІТВА НА ВОРСКЛЕ 1399.** Адбылася 12.8.1399 паміж войскамі ВКЛ на чале з вял. князем Вітаўтам і Залатой Арды на чале з ханам Цімур-Кутлукам і цемнікам Едзігеем каля р. Ворскла (левы прыток Дняпра, верагодна, на тым самым полі, дзе ў 1709 адбылася Палтаўская бітва). Саюзнікамі Вітаўта былі некалькі тысяч татараў, прыведзеных ханам Тахтамышам. Вітаўт абяцаў Тахтамышу дапамогу ў захопе ханскага трона Залатой Арды, за што Тахтамыш павінен быў выдаць яму ярлык на Маскоўскае вял. княства, Ноўгарад, Пскоў. Вітаўта падтрымаў і папа рымскі, які абвясціў крыжовы паход на Залатую Арду. У войску ВКЛ былі атрады з Польшчы, Тэўтонскага ордэна, Валахіі. Аднак асн. сілу войска ў 15—20 тыс. чал. складалі харугвы прыкладна 50 князёў ВКЛ. Войска Залатой Арды (верагодна, па колькасці большае за войска ВКЛ) сустрэла Вітаўта ў межах Залатой Арды каля пераправы цераз р Ворскла. Спачатку татары зацягвалі час перамовамі, аднак з падыходам асн. татарскіх сіл войска Вітаўта было акружана і разбіта, тысячы воінаў загінулі ці трапілі ў палон. Загінула не менш за 16 літоўска-бел. князёў, шэраг польскіх паноў, у т. л. кракаўскі кашталян Спытка. Вітаўт і Тахтамыш з рэшткамі войска ўцяклі. Перамога ў гэтай бітве дазволіла Цімур-Кутлуку зрабіць спусташальны набег на землі Кіеўшчыны і Валыні. ВКЛ захавала кантроль над паўн. Прычарнамор'ем, хоць праваліліся планы Вітаўта дамагчыся панавання над усёй Руссю Паражэнне ў бітве стала адной з прычын, якая вымусіла падпісаць *Віленска-Радамскую унію 1401* ВКЛ з Польшчай.

*Літ* Полное собрание русских летописей М., 1980 Т 35 С 73. *В Л Насевіч*

**БІТВА НА ВЯДРОШЫ 1500.** Адбылася ў ходзе *вайны Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1500—03* на р. Вядроша 14 ліпеня. Вясной 1500 вялікі маскоўскі князь Іван III накіраваў пасла ў ВКЛ з тым, каб той абвясціў вайну. Следам за паслом рушыла маскоўскае войска. Баявыя дзеянні пачаліся ўздоўж усёй дзяржаўнай мяжы. «Воровским обычаем» маскоўскія ваяводы авалодалі Бранскам, Пуцівулем, Гомелем, інш. гарадамі. На пачатку вайны вял. князь ВКЛ Аляксандр накіраваў войскі гетмана К. І. Астрожскага да Смаленска «стеречи границы», а сам з рэшткамі войск пайшоў праз Менск на Барысаў У Смаленску да Астрожскага далучыўся гарнізон пад камандаю С. П. Кішкі, пасля чаго 4—5-тысячнае войска ВКЛ рушыла пад Дарагабуж, дзе стаяў маскоўскі ваявода Ю Захар'іч. Ад перабежчыка Астрожскі даведаўся, што да Захар'іча падышла падмога, пасля чаго маскоўскае войска павялічылася да 20—40 тыс. воінаў. Паводле Хронікі Быхаўца, Астрожскі цверда вырашыў ісці на бітву «Малоль многоль Москвич будет, только вземши Бога на помочь битнся с ними, а не бившися с ними назад не вернутися». На пачатку бітвы Астрожскі разбіў авангард маскоўскага войска на левым беразе р. Вядроша, пасля чаго перайшоў раку і атакаваў гал. сілы ворага, якімі кіраваў Д. В Шчаня. Зыход 6-гадзіннай бітвы прадвызначыла флангавая атака засаднага маскоўскага палка. Харугвы Астрожскага пачалі адступаць і былі разбіты. Маскоўскія воіны знішчылі мост цераз р. Трасна і дабівалі войска ВКЛ на яе левым беразе. Уцекамі ўратаваўся толькі Кішка з чатырма ротмістрамі і з некалькімі сотнямі воінаў. Сам Астрожскі з многімі князямі і воінамі трапіў у палон У выніку бітвы ВКЛ страціла лепшае войска і апынулася ў цяжкім ваенна-паліт. становішчы

*Літ* Зимин А. А Россия на рубеже XV—XVI столетий (Очерки социально-полит истории) М., 1982 С 178—187, Хроника Быховца М, 1966 С 111—113 Ярушевич А Ревнитель православия князь К И Острожский (1461—1530) и православная Литовская Русь в его время Смоленск, 1896 (на вокл 1897) С 84—85, Herbst S Bitwa nad Wiedroszą 1500 r // Wieki srednie Warszawa 1962, Natanson-Leski J Dzieje granicy wschodniej Rzeczypospolitej Cz 1 Granica Moskiewska w epoce Jagiellonskiej Lwow, Warszawa, 1922 S 88 *Г М Сагановіч*

**БІТВА ПАД ЛЯСНОЙ,** гл ў арт *Лясная*

**БІТЭЛЬ** Пятро [Петр Іванавіч; 6(19).6 1912, мяст. Радунь Лідскага пав. Віленскай губ, цяпер і п. Радунь Воранаўскага р-на — 18.10.1991], беларускі паэт, перакладчык, краязнавец, мемуарыст

І А Біч.

Вучыўся ў Барунскай і Віленскай настаўніцкіх семінарыях (1925—31), скончыў Мінскі пед. ін-т (1970). Да 1939 працаваў у школах Нясвіжчыны, Стаўбцоўшчыны, Гродзеншчыны. У 1939—43 на пед. працы ў Валожыне. У часы гітлераўскай акупацыі ў Вял Айч. вайну трымаў сувязь з партызанамі. У чэрв. 1944 вывезены ў Германію. Па дарозе ўцёк, знайшоў прытулак у Польшчы Пасля вызвалення мабілізаваны ў Чырв. Армію, служыў да канца 1945. З 1946 працаваў настаўнікам у Валожынскім р-не. У 1947 звольнены па несправядлівым абвінавачанні, стаў праваслаўным святаром у Докшыцах. У 1950—56 рэпрэсіраваны, знаходзіўся ў папраўча-працоўных лагерах Сібіры і Казахстана. У 1956—63 святар у Петрыкаве. У 1963—74 выкладчык бел. мовы і л-ры і нямецкай мовы ў Вішнеўскай сярэдняй школе Валожынскага р-на. Рэабілітаваны ў 1978. Першыя вершы Б. з'явіліся ў друку ў 1939. Аўтар краязнаўчых нарысаў пра стараж вёскі Вішнева, Баруны і інш., гіст. паэм «Памятны верасень», «Замкі і людзі», «Сказанне пра Апанаса Берасцейскага», у якіх паказаў драматычны лес бел. народа, яго барацьбу за свае чалавечыя правы на працягу мінулых стагоддзяў, вершаваиых аповесцей пра жыцце працоўных Зах Беларусі «Дзве вайны», «Баруны», дакумент. аповесцей «Аблога Смаленска» і «Вішнева». Свае мемуары перадаў Нацыянальнаму навук -асветнаму цэнтру імя Ф. Скарыны. Перакладаў творы розных аўтараў з польскай, ням., англійскай і інш. моў, у т л. амаль усе творы А. Міцкевіча, «Боскую камедыю» А. Дантэ. Рукапіс перакладу паэмы «Пан Тадэвуш» Міцкевіча, зроблены ў час знаходжання ў лагерах (на паперы ад мяшкоў з-пад цэменту), захоўваецца ў Дзярж. музеі гісторыі бел. літаратуры ў Мінску.

*Тв* Замкі і людзі Мн, 1968, Паэмы Мн, 1984, Дзве вайны Мн, 1990.

*Г А Каханоўскі*

**БІЧ** Іван Андрэевіч [псеўд. Таежны; 1881, в. Ясьманаўцы Вілейскага пав. Віленскай губ., цяпер Валожынскі р-н — кастр 1919], герой грамадзянскай вайны Скончыў Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю Удзельнік рэвалюцыі 1905—07. Хаваючыся ад паліцыі, выехаў у Канскі пав Енісейскай губ., у 1911 пераехаў у Тайшэт. Пасля Кастр. рэвалюцыі 1917 чл. Краснаярскага губрэўкома. Для арганізацыі барацьбы супраць Калчака пасланы ў Канскі пав, дзе ў с. Шытка ў лютым 1919 стварыў партыз. атрад Паўстанне ахапіла 13 валасцей, узнік т. зв. «шыткінскі фронт». Больш за 1000 партызан, сярод якіх было нямала перасяленцаў з Беларусі, паспяхова змагаліся супраць калчакаўцаў. Бесперапыннымі дыверсіямі на ўчастку Тайшэт—Тулун Сібірскай чыг. яны зрывалі забеспячэнне белагвардзейцаў на Усх фронце, стварылі т. зв. «тайшэцкую затычку» Б. быў камісарам шыткінскіх партызан,

узначальваў лятучы лыжны атрад. У час баявой аперацыі ў вер. 1919 трапіў у палон, пасля катаванняў павешаны. У Тайшэце помнік Б., яго імем названа сярэдняя школа.

*Літ.*: Криволуцкий П. Д. Шиткинские партизаны. М.; Иркутск, 1934; Дворянов Н. В., Двоянов В. Н. В тылу Колчака. М., 1966. *Г. А. Каханоўскі.*

**БІЧ** Міхаіл Восіпавіч (н. 27.5.1937, в. Мілявічы Мастоўскага р-на), беларускі гісторык. Д-р гіст. навук (1985). Скончыў БДУ (1958). Працаваў настаўнікам у Пастаўскім і Мастоўскім р-нах, з 1961 малодшы, з 1971 ст. навук. супрацоўнік, з 1983 заг. аддзела гісторыі Беларусі перыяду капіталізму Ін-та гісторыі АН Беларусі, адначасова з 1989 нам. дырэктара. Даследуе гісторыю Беларусі 19 — пач. 20 ст.: праблемы рабочага і с.-д. руху, фарміравання класаў і паліт. партый, грамадска-паліт. барацьбы, народніцкага і нац. руху, перыяд. друку. Адзін з аўтараў «Гісторыі Беларускай ССР» (т. 2, 1972), «Гісторыі рабочага класа Беларускай ССР» (т. 1, 1984), калект. манаграфій «Гістарычныя карані дружбы і згуртаванасці ўкраінскага і беларускага народаў» (1978), «Асвета і педагагічная думка ў Беларусі: са старажытных часоў да 1917 г.» (1985), «Полацк: Гіст. нарыс» (2 выд., 1987), навучальнага дапаможніка «Гісторыя Беларусі, XX ст.» (1992). Аўтар дапаможніка для вучняў «Гісторыя Беларусі: Канец XVIII ст.— 1917 г.» (1993).

*Тв.*: Развитие социал-демократического движения в Белоруссии в 1883—1903 гг. Мн., 1973; Рабочее движение в Белоруссии в 1861—1904 гг. Мн., 1983; У змаганні за лепшую долю // Полымя. 1966. № 8; Ленінская «Искра» і Беларусь // Тамсама. 1970. № 12; О методике статистического исследования рабочего движения (на материалах Белоруссии) // Рабочий класс центра страны и Сибири (конец XIX — начало XX в.). Новосибирск, 1981; Кастусь Каліноўскі як рэвалюцыйны дэмакрат // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1988. № 1; Ад родных ніў: Грамад.-паліт. погляды К. Каганца // Полымя. 1988. № 3; Из плена старых догм // Коммунист Белоруссии. 1989. № 1; Аб нацыянальнай канцэпцыі гісторыі і гістарычнай адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь // Бел. гіст. час. 1993. № 1.

**БІЧЭЛЬ-ЗАГНЕ́ТАВА** Даиута Янаўна (н. 1.1.1938, в. Біскупцы Лідскага р-на), беларуская паэтэса. Скончыла Гродзенскі пед. ін-т (1962). Працавала настаўніцай. З 1982 загадчык Дома-музея Максіма Багдановіча ў Гродне. Увага да гіст. мінулага Беларусі (верш «Каложа» ў зб. «Нёман ідзе», 1964) стаиовіцца ў пазнейшых яе творах адным з вядучых матываў: зборнікі «Дзе ходзяць басанож» (1983; Дзярж. прэмія Беларусі імя Я. Купалы, 1984), «Загасцінец» (1985), «Даўняе сонца» (1987), «А на Палессі» (1990). Духоўная каштоўнасць даўніх падзей і асоб, пачуццё ўнутр. злітнасці з імі лірычнай гераіні, іх гіст. адметнасць, каларытнасць, іх маральна-патрыят. рэзананс у сучаснасці — асн. кірункі вершаў пра мінулае. Гісторыя ў іх моцна трансфармуецца і такім чынам выяўляецца яе гераічны, светлы і балючы змест. Часта паказвае ў творах рэальных асоб (Ф. Скарына, Сімяон Полацкі, Давыд Гарадзенскі, Ягайла, браты Мамонічы, Барбара Радзівіл, Т. Касцюшка, К. Каліноўскі, М. Багдановіч, Я. Купала, Я. Колас, Г. Леўчык, З. Верас, Б. Тарашкевіч, Цётка), фіксуе і паэтычна асэнсоўвае рэальныя мясціны, што нясуць на сабе выразныя сляды гісторыі, культуры (Астрына, Гальшаны, Гродна, Слонім, Ліда, Дзятлава, Жупраны, Кушляны, Доцішкі, Ракуцёўшчына, Якушоўка, Вішнева, Пінкавічы, Ляўкі і інш.). Гісторыя часцей складае не тэматыку твораў, а іх унутр. пласт, маральны грунт. Рэальныя з'явы ствараюць пераклічку эпох, кіруюць лірычнае дзеянне да складаных, нявырашаных праблем нац.-духоўнага жыцця бел. грамадства. *А. М. Пяткевіч.*

М. В. Біч.

**БІЯЛО́ГІЯ** (грэч. bíos жыццё + lógos вучэнне), сістэма навук пра жывую прыроду. Вывучае заканамернасці жыцця ва ўсіх яго праявах, пазнае сутнасць, паходжанне і развіццё жывых істот, іх адносіны паміж сабою і з навакольным асяроддзем.

Гісторыя развіцця біялагічнай навукі на Беларусі. У 18—19 ст. даследаванні па агульных праблемах Б., флоры, фауны Беларусі мелі пераважна апісальны характар і найчасцей выконваліся асобнымі даследчыкамі. Развіццё вучонымі Беларусі элементаў эвалюцыйнай тэорыі, вучэння пра метабалізм, генетыку пачынаецца з «біялагічных» раздзелаў філасофскіх трактатаў 18 ст. А. Скарульскага, Б. Дабшэвіча, С. Шадурскага і інш. У трактатах аб праблемах эвалюцыі канца 18 — пач. 19 ст. А. Маркевіча і Ю. Ясінскага, у курсах «расліннай» і «жывёльнай» хіміі выкладчыка Полацкай езуіцкай акадэміі Ю. Цітовіча адчуваецца ўплыў ідэй віленскай эвалюцыйнай школы. Хімічныя даследаванні ісландскага моху ў пач. 19 ст. праводзіў чл.-кар. Пецярбургскай АН полацкі аптэкар Ф. Брандэнбург. Сістэматычныя працы па хіміі прыродных рэчываў пачаты ў Горы-Горацкай земляробчай школе (1840, у 1848—64 земляробчы ін-т) праф. К. Шмітам, І. Цютчавым. Вынікі мікраскапічных даследаванняў Шміт трактаваў у тэрмінах клетачнай тэорыі, якая яшчэ толькі нараджалася. У 2-й пал. 19 ст. праблемы віда- і формаўтварэння распрацоўваў У. І. Дыбоўскі. Тыя ж пытанні, а таксама агульныя праблемы эвалюцыі і генетыкі закранаў у сваіх публікацыях выкладчык Горы-Горацкай земляробчай школы М. В. Рытаў, адзін з найб. аўтарытэтных у Расіі спецыялістаў у галіне насенняводства, акліматызацыі культ. раслін, гібрыдызацыі; яго работу працягваў М. І. Бурштэйн. Сартавы склад пладовых культур Беларусі вывучаў В. В. Пашкевіч. У пач. 20 ст. на Беларусі дзейнічалі добраахвотныя прафес. і культурна-навуковыя т-вы, члены якіх публікавалі артыкулы па агульнабіялагічных праблемах.

Батаніка як сістэма ведаў пра расліны пачала фарміравацца на Беларусі ў канцы 18 ст. Першыя батанічныя даследаванні зроблены І. І. Ляпёхіным, М. Я. Азерацкоўскім, В. М. Севергіным, канонікам брэсцкім К. Клюкам. У 1775 французскі вучоны **Ж. Э. Жылібер** у Гродне заклаў 1-ы на Беларусі батанічны сад (пазней перанесены ў Вільню), значную частку калекцый якога складалі віды мясц. флоры. Вывучэннем дзікарослых і культ. раслін у 18—19 ст. займаліся батанікі С. Б. Юндзіл, К. Ф. Ледэбур, В. Бесэр і інш. У пач. 1860-х гадоў каштоўны гербарый сабраў дырэктар Горы-Горацкага земляробчага ін-та Р. Траўтфетэр. З сярэдзіны 19 ст. батанічныя даследаванні праводзілі батанікі-аматары Н. Доўнар, К. Прушынскі, М. Твардоўская, К. Чалоўскі, К. Шафнагль і інш. З 1878 флору Навагрудчыны вывучаў У. І. Дыбоўскі, адзін з ініцыятараў выдання гербарыя флоры Польшчы і суседніх рэгіёнаў. Ён таксама сабраў «Гербарый навагрудскай зямлі». З канца 19 ст. геабатанічнае даследаванне Палесся праводзілі Г. І. Танфільеў, У. С. Дактуроўскі, І. К. Пачоскі і інш. У 1901 Пачоскі выдаў абагульняльную працу «Флора Палесся і прылеглых мясцовасцей». Фларыстычныя даследаванні вялі праф. Горы-Горацкага земляробчага ін-та Х. І. Гербаноўскі, Э. Ф. Рэго, А. М. Бажанаў, адзін з заснавальнікаў фітацэналогіі. Некаторыя пытанні дэндралогіі, селекцыі і вырошчвання с.-г. раслін (біялагічныя асновы раслінаводства) вялі А. В. Саветаў, І. А. Сцебут, Рытаў, К. Г. Рэнард. Даследаванні па культуры злакаў і лубіну выконваліся на Беняконскай с.-г. доследнай станцыі (з 1910), па экалогіі і фізіялогіі раслін — на Мінскай балотнай станцыі (з 1911), па біялогіі і развядзенні мясц. лекавых раслін — на доследнай плантацыі пад Магілёвам (заснаваў у 1916 Г. К. Крэер, у 1920 рэарганізавана ў доследную станцыю). Калекцыі раслін былі ў Вялікалятчанскім батанічным садзе (каля Віцебска) і бат. садзе ў Горы-Горках.

Заалагічныя даследаванні на Беларусі пачаліся ў 18 ст. Апісанні жывёльнага свету яе асобных тэр. з прамыслова-гасп. пункта погляду ёсць у працах польскага даследчыка Г. Ржанчыи-

скага, Ляпехіна, Севергіна, першае сістэматычнае навук. апісанне — у кнігах Э. Эйхвальда, А. Плятэра і інш. Працы, прысвечаныя вывучэнню зуброў, публікавалі Л. Баянус, А. Валецкі, А. К. Мардвілка, М. М Кулагін. У 2-й пал. 19 ст ў «Матэрыялах для геаграфіі і статыстыкі Расіі» змешчаны спісы найб. вядомых і пашыраных дзікіх жывел бел. губерняў. Звесткі пра птушак Беларусі друкавалі ў сярэдзіне — канцы 19 ст. К. Тызенгаўз, С. Горскі, В. Тачаноўскі. Арніталогія як самастойная галіна навукі на Беларусі пачала складвацца ў пач. 20 ст. (У. М. Шнітнікаў, А. У. Фядзюшын). Першыя звесткі пра іхтыяфауну абмяжоўваліся пераважна інвентарызацыйнымі спісамі рыб, змешчанымі ў працах 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. (А. Кораў, П. В. Баброўскі, Ф. Ястрэмскі, П. П. Сямёнаў і інш.). Іхтыяфауну Зах. Дзвіны даследаваў Плятэр, Верхняга Дняпра — П. Ф. Дамрачоў, змяшэнне іхтыяфаун Зах. Дзвіны і Дняпра праз сістэму каналаў — Б. Дыбоўскі. У 1904 экспедыцыя Рус. т-ва акліматызацыі жывел і раслін пры ўдзеле Віленскага аддзела Расійскага т-ва рыбалоўства і рыбаводства ўпершыню абследавала вадаемы ПнЗ Беларусі. Удзельнікі экспедыцыі апісалі іхтыяфауну Браслаўскіх і Нарачанскіх азер, Немана, Шчары, Буга і інш. рэк. У 1914—16 іхтыялагічныя матэрыялы сабралі ўдзельнікі Віцебскай рыбагасп. экспедыцыі. Даследаванню беспазваночных прысвечаны працы М. Браўна, У. Дыбоўскага, У. Палінскага. Вывучэнне насякомых на Беларусі пачалося ў выніку экспедыцый прыродазнаўцаў у 2-й пал 19 ст У 1901—14 надрукаваны спісы відаў стракоз, вос, мурашак і інш. Найб. поўныя звесткі пра энтамафауну сабраны ў «Каталогу насякомых Магілёўскай губерні» М М. Арнольда (1901).

Грунтоўнае развіццё біялагічных навук на Беларусі пачалося ў пач 1920-х гадоў Даследаваннямі па Б. кіравалі аднаўлены ў 1919 Горы-Горацкі земляробчы ін-т (з 1925 БСГА), новаўтвораныя цэнтры бел. навукі — БДУ (1921), Ін-т сельскай і лясной гаспадаркі (1922—25) і Інбелкульт (1922, з 1929 АН БССР). Развіццю Б. спрыяла дзейнасць с.-г. і медыцынскіх н.-д. устаноў. У 1920-я гады праведзены геабатанічныя, гельмінталагічныя, гідрабіялагічныя, іхтыялагічныя і інш экспедыцыі, якімі кіравалі Фядзюшын, Я. І. Праскуракоў, М. І. Кузняцоў і інш. вучоныя; створана сетка біялагічных, лясных, с-г доследных станцый. У 1931 у сістэме АН БССР адкрыты Ін-т біялагічных навук з батанічным садам і заалагічным музеем. У практыку біялагічных даследаванняў укараняліся эксперыментальныя метады. Праводзіліся даследаванні па фізіялогіі і біяхіміі раслін (М. М. Гайдукоў, Ц М. Годнеў). Пачалі адасабляцца розныя раздзелы мікрабіялогіі і паразіталогіі У самастойную галіну ведаў вылучылася фізіялогія чалавека і жывел (Л. П Розанаў, В. А. Лявонаў), праводзіліся даследаванні па антрапалогіі (А К Ленц). Склаліся ўмовы для

А С Благавешчанскі.

развіцця біялагічных навук пра найб. агульныя ўласцівасці ўсіх жывых арганізмаў (генетыка, біяхімія, экалогія, эвалюцыйнае вучэнне, біялогія развіцця і інш.). Над праблемамі генетыкі, селекцыі, раслінаводства працавалі Рытаў, У. У. Вінер, М. В. Найдзенаў, Рэнард, Я. К. Аляксееў. Пытанні экалогіі раслін даследавалі Г. М. Высоцкі, В. Г Касаткін, мікалогіі і фітапаталогіі — В. Ф. Купрэвіч, М. А. Дарожкін, С. М. Тупяневіч, ліхеналогіі — М. П. Тамін. Вывучаць тыпы лясоў Беларусі пачаў І. Д. Юркевіч, фаўністычныя даследаванні праводзілі І. М. Сяржанін, Кулагін, тэарэт. праблемамі эвалюцыйнай марфалогіі займаўся С. І. Лябёдкін. Вяліся даследаванні ў галіне інтрадукцыі раслін (М. Дз. Несцяровіч, С. Д. Георгіеўскі, А. Л. Новікаў), вывучаліся лясная, лугавая і балотная расліннасць (Л. І Яшноў, В І Пераход, Д І. Таўсталес, С. П. Мельнік і інш.), флора ніжэйшых раслін (У. П Савіч, Купрэвіч, Дарожкін), альгафлора (В. Дз. Акімава), даследаваліся пытанні энтамалогіі, нейрафізіялогіі, геабатанікі, палеанталогіі і інш. У студз. 1925 створаны 1-ы ў рэспубліцы дзярж. запаведнік на Бярэзіне. Да Вял. Айч. вайны быў сабраны багаты гербарый (каля 8 тыс. лістоў) і вял. калекцыя фауны Беларусі (млекакормячых каля 4 тыс., птушак каля 6 тыс., насякомых каля 200 тыс. экз.). У 1944 пачаў працаваць Ін-т тэарэт. і клінічнай медыцыны АН БССР, пераўтвораны ў 1953 у Ін-т фізіялогіі АН БССР (у 1958 з яго вылучаны Сектар геранталогіі, на базе якога ў 1987 створаны Ін-т радыебіялогіі). Аднавіў сваю дзейнасць Ін-т біялагічных навук (у 1948—62 Ін-т біялогіі, з 1963 Ін-т эксперыментальнай батанікі), з яго вылучыліся самастойныя навук. ўстановы· Цэнтр. батанічны сад (1957), аддзелы аховы раслін (1957), фізіялогіі і сістэматыкі ніжэйшых раслін (1958, з 1972 у складзе Ін-та эксперыментальнай батанікі), заалогіі і паразіталогіі (1958, з 1980 Ін-т заалогіі), генетыкі і цыталогіі (1963, з 1965 Ін-т генетыкі і цыталогіі), мікрабіялогіі (1966, з 1975 Ін-т мікрабіялогіі), Лабараторыя біяфізікі і ізатопаў (з 1973 Ін-т фотабіялогіі) У 1970 арганізаваны Аддзел рэгуляцыі абмену рэчываў АН БССР у Гродне (з 1985 Ін-т біяхіміі), у 1974 — Ін-т біяарганічнай хіміі АН БССР. У 1991 у сістэме Аддзялення біялагічных навук АН Беларусі 9 навук. устаноў. У першае пасляваен. дзесяцігоддзе значную шкоду біялагічнай навуцы, асабліва генетыцы і селекцыі, нанеслі памылковыя ідэі Т. Лысенкі. Пасля стварэння новых навук. устаноў праблематыка біялагічных даследаванняў значна пашырылася Паглыблена вывучаліся флора (у 1959 завершана выданне 5-томнай «Флоры БССР») і фауна рэспублікі (М Е Макушок, Сяржанін, С В. Кахненка, П. І. Жукаў, М. С. Долбік, І. Ц. Арзамасаў, А. М. Курскоў, М. М. Пікулік і інш.), праблемы дэндралогіі і інтрадукцыі раслін (Несцяровіч, А. Ф. Іваноў, М. У. Смольскі, Я. А. Сідаровіч), інтэнсіфікаваны работы па фізіялогіі, біяхіміі раслін, фотасінтэзу (Годнеў, М. М. Ганчарык, А. С Вечар, С. У. Калішэвіч, А. А. Шлык, В. І. Гапоненка), разгарнуліся даследаванні генетычных асноў гетэрозісу, поліплаідыі, эксперыментальнага мутагенезу (А. Р. Жэбрак, М. В. Турбін, П. Ф. Ракіцкі, Л У. Хатылева, У. Я. Борматаў, М. А. Картэль), канфармацыйнай лабільнасці біялагічных мембран (С. В. Конеў, І. Дз. Валатоўскі), па селекцыі раслін (П. І. Альсмік, А. І. Лапо, М. Дз Мухін, Э. П. Сюбарава, А. Р. Валузнеў і інш.), ахове раслін ад хвароб (Дарожкін, А. Л. Амбросаў), глебавай энзімалогіі і фізіялогіі хворай расліны (Купрэвіч), фізіялогіі і марфалогіі нервовай сістэмы (І А. Булыгін, Д А Маркаў, А С Дзмітрыеў, Д М. Голуб), па вывучэнні нейрагумаральных механізмаў рэгуляцыі абменных працэсаў (А. А. Логінаў, В. М. Гурын), па ўзроставай фізіялогіі і біяхіміі (В. А. Лявонаў, М. І. Арынчын), радыяцыйнай біяхіміі мозга (Л. С. Чаркасава), па розных раздзелах мікрабіялогіі і мікрабіялагічнага сінтэзу бялкоў, ліпідаў, ферментаў (С А. Самцэвіч, А. Р. Лабанок), біяхіміі вітамінаў (Ю. М Астроўскі). Вял. ўвага аддаецца функцыянальнай ацэнцы біягеацэнозаў (Юркевіч, В. І. Парфёнаў), экалагічнай энергетыцы (Л. М. Сушчэня), экалогіі (Смольскі, І. Н. Рахцеенка), праблемам аховы прыроды, вывучэнню механізмаў дзеяння апрамянення ў сувязі з катастрофай на Чарнобыльскай АЭС 1986. Даныя Б. шырока выкарыстоўваюцца ў медыцыне, аграноміі, лясной гаспадарцы Навук. даследаванні па Б. каардынуюць праблемныя навук. саветы АН Беларусі.

*Літ* Навука БССР за 50 год Мн, 1968, Развіццё біялагічных навук // Акадэмія навук Беларускай ССР Мн, 1979

*С Г Галакціёнаў, П І Жукаў, Г М Яцкевіч*

**БЛАГАВЕ́ШЧАНСКІ** Аляксей Сяргеевіч [н 5(18) 10 1909, г Брэст], Герой Сав Саюза (1938), ген-лейт. авіяцыі (1943). Скончыў Курскі прамыслова-эканам. тэхнікум, Ленінградскую ваенна-тэарэт школу ВПС (1928), Барысаглебскую

школу летчыкаў (1929), курсы ўдасканалення камсаставу пры Ваен. акадэміі Генштаба (1939). У Сав. Арміі з 1927. Удзельнік нац.-вызваленчай барацьбы Кітая супраць японскіх захопнікаў у 1937 (зрабіў 73 баявыя вылеты, збіў асабіста 7 і ў групе больш за 20 самалетаў), сав.-фінляндскай вайны 1939—40. З пач. Вял. Айч. вайны нам. камандуючага ВПС Далекаўсх. фронту. З 1942 на Ленінградскім, Калінінскім, 1-м Прыбалтыйскім, 1-м Укр., 3-м Бел. франтах, камандзір знішчальнага авіякорпуса У чэрв.—ліп. 1944 удзельнічаў у вызваленні Оршы, Віцебска, Мінска, Маладзечна, Ліды. Да 1960 на адказных пасадах у Сав. Арміі.

**БЛА́ГАВІЧЫ**, веска, цэнтр сельсавета ў Чавускім р-не, на р. Плясна (прыток р Раста). За 8 км на ПнЗ ад Чавусаў, 40 км ад Магілева, 13 км ад чыг. ст. Чавусы на лініі Магілеў — Крычаў, аўтадарогай звязаны з шашой Магілеў — Чавусы. 359 ж., 152 двары (1990). Вядома па рукапісных крыніцах з 1560 як сяло ў Магілеўскай вол. ВКЛ, дзярж. ўласнасць. У 1580 перададзена ў валоданне памешчыку. У 1604 цэнтр войтаўства, 58 двароў, на р. Плясна дзейнічаў млын У 1742 было 30 гаспадарак, карчма. У 1785 532 ж., 75 двароў. Паводле 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) уключана ў склад Расійскай імперыі. У 1797 тут пабудавана драўляная царква. У 18 — пач. 19 ст. належала ген.-м. І. М Рымскаму-Корсакаву. У 1848 сяло ў Чавускім пав. Магілёўскай губ. У 1858 232 рэвізскія душы. Памешчык меў у 1879 у весках Б. і Лапкі 1710 дзес. зямлі, вінакурны з-д, вадзяны млын і карчму. У 1880 694 ж., 100 двароў; у Гладкоўскай вол. Чавускага пав. У 2-й пал 19 ст. пабудавана цагляная царква (захавалася) Частка вяскоўцаў займалася стальмашным і кравецкім рамествамі. У 1887 тут адкрыта царк.-прыходская школа. У 1897 933 ж., 157 двароў, кузня, 2 хлебазапасныя магазіны; непадалеку размяшчаўся фальварак (19 ж., 4 двары). Двойчы на год праводзіліся кірмашы. У 1909 у сяле 1092 ж., 166 двароў, у аднайменнай сядзібе — 8 ж, 2 двары. Сав. ўлада ўстаноўлена ў снеж. 1917. У лют. 1918 створаны атрад Чырвонай гвардыі (200—300 чал.). Дарэвалюцыйная школа ператворана ў працоўную школу 1-й ступені (81 вучань у 1925) У 1918 створаны культ.-асветны гурток, які ў 1919 перарос у нар. дом. У 1922 адкрыта хата-чытальня, якая па выніках усесаюзнага конкурсу, праведзенага ў 1924 газ. «Правда», была ўдастоена 1-й прэміі. Дзейнічаў гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1931 арганізаваны калгас «Перабудова» (у 1932 аб'ядноўваў 35 гаспадарак), наладжана тэлефонная сувязь. У 1940 800 ж., 153 двары. У Вял. Айч. вайну з 10.7 1941 да 25.6.1944 акупіравана ням -фаш. захопнікамі У ліст 1943 гітлераўцы спалілі 12 двароў, загубілі 9 жыхароў. У брацкай магіле, што ў цэнтры вёскі, пахаваны воіны 369-й стралк дывізіі, што загінулі ў 1944 у баях за вызваленне раена, і партызаны. У 1970 у весцы 523 ж., 187 двароў. Цэнтр калгаса «Святло Кастрычніка» Тут размешчана вытв. брыгада, фермы, машынны двор, есць сярэдняя школа, клуб, б-ка, аддзяленне сувязі, фельчарска-акушэрскі пункт, 2 магазіны.

**БЛАГАРАЗУ́МАЎ** Сяргей Аляксеевіч (1921, Варонеж — 1942), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў Мінскага камсамольска-маладзежнага падполля ў Вял Айч. вайну. З лета 1941 у акупіраваным Мінску ўключыўся ў падп. барацьбу. Арганізатар падп камсамольскіх груп У кастр. 1941 па заданні падполля ўладкаваўся на работу ў паліцыю, з мая 1942 на нелегальным становішчы. Прымаў удзел у выданні падп. газ. «Звязда», лістовак. Выконваў спец. заданні Мінскага падп. ГК КП(б)Б. У кастр 1942 арыштаваны фашыстамі і пакараны смерцю.

**БЛАЖКО́** Андрэй Агеевіч (1895, в. Харавічы Ігуменскага пав., цяпер у межах в. Дукора Пухавіцкага р-на — 17.5. 1920), арганізатар і кіраўнік *дукорскіх партызан* З 1915 матрос Балтыйскага флоту. Удзельнік Кастр. рэвалюцыі, камуніст У 1919 прыехаў на радзіму, дзе яго застала польская інтэрвенцыя. Разам з М. І. Рудовічам стварыў і ўзначаліў партыз. атрад. У доме Б. размяшчаўся штаб атрада 3 5 1920 арыштаваны польскімі акупантамі, расстраляны ва ўрочышчы Пушча. Яго імем названа вуліца ў в. Дукора.

А А Блажко.

**БЛАЖЭ́ВІЧ** Іосіф Францавіч [13(25).9. 1891, в. Наваселкі Трокскага пав. Віленскай губ., цяпер Літва — 16.3.1939], савецкі военачальнік. Скончыў Віленскае ваен. вучылішча (1913). Камандзір роты, батальена, заг. падрыхтоўчых курсаў 5-й арміі Паўн. фронту. У 1917 накіраваны ў Акадэмію Генштаба. Пасля Кастр. рэвалюцыі абраны камандзірам батальена, 'са снеж. 1917 — нам. камандзіра палка. З кастр. 1918 на Усх. фронце: камандзір 1-га Волжскага стралк. палка, 1-й Асобай Сібірскай брыгады, 3-й брыгады 27-й стралк. дывізіі. Удзельнік вызвалення Златауста, Чэлябінска, Кургана, Петрапаўлаўска, Омска, Новамікалаеўска (цяпер Новасібірск). Нач. дывізій. з ліст. 1919 — 27-й, з лют. 1920—59-й, са студз. 1921 — 1-й Туркестанскай. З ліст. 1921 камандуючы войскамі 1-й арміі Туркестанскага фронту. З вер. 1922 камандзір 16-га стралк. корпуса, які пазней ператвораны ў Бел. стралковы корпус і дыслацыраваўся на Беларусі. З 1926 Б. працаваў у штабе РСЧА: нач. упраўлення, інспектар па стралк.-тактычнай справе, інспектар і нам. нач. упраўлення ППА. Кандыдат у чл. ЦВК БССР. Ілжыва абвінавачаны ў контррэв. дзейнасці і рэпрэсіраваны. Рэабілітаваны пасмяротна. *П А Селіванаў*

І Ф Блажэвіч.

**БЛАХІ́Н** Федар Цімафеевіч [29.10(11. 11). 1903, в. Раманаўка Курмышскага пав. Сімбірскай губ., цяпер Пільнінскага р-на Ніжагародскай вобл.— 30.7.1974], удзельнік вызвалення Беларусі ад ням.-фаш. захопнікаў у Вял. Айч. вайну. Герой Сав. Саюза (1945). На фронце з сак. 1943, камандзір сапёрнага ўзвода. Вызначыўся 26.6.1943 пры вызваленні Віцебска. У час бою на чале групы байцоў уварваўся на гарадскі мост, перарэзаў бікфордаў шнур і абясшкодзіў міну. Байцы яго ўзвода ўтрымлівалі мост да падыходу асн. сіл сав. войск. У Віцебску яго імем названы выратаваны мост цераз Зах. Дзвіну, устаноўлена мемарыяльная дошка. Б.— ганаровы грамадзянін Віцебска.

**БЛІ́ЗКІЯ ПА КУДЗЕ́ЛІ**, юрыдычны тэрмін часоў ВКЛ, якім *Статут Вялікага княства Літоўскага 1588* вызначаў роднасць па лініі маці; наогул — сваякі жанчыны. Ужываўся пры вызначэнні адносін паміж сваякамі мужа і жонкі пры размеркаванні спадчыны, устанаўленні апекі, вызначэнні таго, хто меў права на спагнанне *галоўшчыны* і інш.

*Літ* Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 Мн, 1989.

**БЛІ́ЗКІЯ ПА МЯЧЫ́**, юрыдычны тэрмін часоў ВКЛ, якім *Статут Вялікага княства Літоўскага 1588* вызначаў родзічаў па лініі бацькі наогул — радня, сваякі мужчыны. Ужываўся пры ўстанаўленні чарговасці на спадчыну, устанаўленні апекі, пры спагнанні *галоўшчыны* і інш.

*Літ* Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 Мн, 1989.

**БЛІ́НЧЫКАЎ** Моталь Абелевіч [парт. псеўд. Л. Якаўлеў, Абрам, Леў, 13(25) 3 1896, г Краслава, Латвія —

11.11 1935], дзеяч рэв. руху ў Зах Беларусі У 1912 — 15 вёў работу ў прафсаюзах Віцебска, знаходзіўся пад уплывам Бунда У 1916—17 вёў рэв прапаганду сярод салдат, двойчы быў арыштаваны З 1919 у Чырвонай Арміі, нам. нач. палітаддзела 17-й дывізіі на Зах фронце. З канца 1920 нам. наркома працы БССР. З ліст 1921 на падп. рабоце ў Зах Беларусі сакратар Беластоцкага акр камітэта КПП У 1922—28 у турмах бурж Польшчы. У 1928—35 чл. Бюро ЦК КПЗБ, кіраўнік Краявога сакратарыята ЦК КПЗБ, прадстаўнік ЦК КПЗБ пры ЦК КП(б)Б Дэлегат I (1928) і II (1935) з'ездаў КПЗБ, VI (1932) з'езда КПП, VII (1935) кангрэса Камінтэрна.
*М. С Арэхва*

**«БЛІЦКРЫГ»**, гл *«Маланкавая вайна»*

**БЛОК НАЦЫЯНА́ЛЬНЫХ МЕ́НШАСЦЕЙ**, аб'яднанне буржуазных і сялянскіх партый і арг-цый нацыянальных меншасцей у Польшчы Створаны ў 1922 для сумеснай дзейнасці напярэдадні выбараў у сейм і для работы ў ім. Ахопліваў сваім уплывам амаль усю тэр. польскай дзяржавы (акрамя ўсх часткі карэннай Польшчы — т. зв. Малапольшчы). У Б н м уваходзіў *Беларускі цэнтральны выбарчы камітэт* На выбарах у сейм у 1922 атрымаў 1398 тыс (16 %) галасоў, 66 пасольскіх і 22 сенатарскія мандаты. У сейме дэпутаты асобных нац. меншасцей утваралі нац пасольскія (дэпутацкія) клубы *(Беларускі пасольскі клуб*, укр, яўрэйскі і нямецкі) У Зах Беларусі за кандыдатаў Б н м было аддадзена 286 тыс. (28 %) галасоў Па спісе блока ў сейм прайшлі 11 дэпутатаў-беларусаў, у сенат — 3 сенатары, у іх ліку ад *Беларускай сацыял дэмакратычнай партыі* А Аўсянік, П Валошын, П Мятла, В Рагуля, С Рак-Міхайлоўскі, Б Тарашкевіч, Ф Ярэміч; ад *Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў* С Баран і С Якавюк, ад *Беларускай хрысціянскай дэмакратыі* В Багдановіч і А. Станкевіч; беспартыйныя — М. Кахановіч, А Назарэўскі, А Уласаў У перыяд выбараў у сейм і сенат у сак 1928 блок атрымаў 143,3 тыс (11 %) галасоў У час выбараў у сейм (1930) Б н м. не ўтварыўся

*Літ* Борьба трудящихся Западной Белоруссии за социальное и национальное освобождение и воссоединение с БССР Документы и материалы Мн, 1962 Т. 1 С. 514—515, Палуян У А Беларуская сялянска-рабочая грамада Мн, 1967, Bełcikowska A Stronnictwa polityczne w Polsce Popularny przewodnik praktyczny Warszawa, 1926
*У А Палуян*

**БЛО́НСКАЯ СЯЛЯ́НСКАЯ АРГАНІЗА́ЦЫЯ.** Дзейнічала ў в. Блонь Ігуменскага пав. (цяпер Пухавіцкі р-н) у 1899 -1908. Рэв. агітацыя сярод сялян вялася з 1881 уладальнікамі маентка Блонь народнікамі А В. *Бонч Асмалоўскім* і яго жонкай В І *Бонч-Асмалоўскай* (Вахоўскай) Найбольш кемлівым сялянам яны давалі кнігі, рыхтавалі да прапаганды. Каб зблізіцца з вяскоўцамі, наладжвалі ў маентку вечарынкі, сваіх дзяцей пасылалі ў мясц. сельскую школу, летам аддавалі ў работнікі да сялян. Пасля узнікнення на Міншчыне ў канцы 1890-х гадоў *Рабочай партыі палітычнага вызвалення Расіі*, адным з кіраўнікоў якой стаў Бонч-Асмалоўскі, агітацыя сярод жыхароў Блоні і суседніх весак узмацнілася Гэтаму садзейнічалі таксама сябры Бонч-Асмалоўскага па партыі муж і жонка С. Клячко і Л М Клячко-Радзівонава, якія прыехалі ў 1896 у мяст. Пухавічы. У выніку ў канцы 1899 сярод сялян Блоні ўзнік тайны гурток самаразвіцця і ўзаемадапамогі У ім налічвалася каля 20 чалавек М і А Цехановічы, Н і С Мігуцкія, Р Абрачынскі, М. Васкабойнік, А Буцанец і інш Гурток меў б-ку, аказваў матэрыяльную дапамогу сялянам На сходах гурткоўцы абмяркоўвалі паліт і эканам праблемы, знаёміліся з рэв літаратурай, сацыяліст ідэямі Пад рэв уздзеяннем гуртка знаходзіліся жыхары в Блонь і навакольных весак Клятное, Кляцішын, Сінча, Церабуты У 1898—99 у маентку Блонь некалькі месяцаў жыла народніца К.*Брэшка Брашкоўская*, туды прыязджалі народаволец С П *Кавалік*, народнікі Р А. *Гершуні*, Я К *Судзілоўская*, Е У Нікіфарава і Л П. Нікіфараў, марксісты С. *Мяржынскі*, П *Румянцаў*, рус. пісьменнік Я Чырыкаў і інш. У 1901 гурток разгромлены Бонч-Асмалоўскі з сынам Іванам і М Цехановіч на 4 гады адпраўлены ў ссылку, астатнія узяты пад асобы нагляд паліцыі У 1903 вакол селяніна В Катка (Федарончыка) пачаў фарміравацца новы гурток, які знаходзіўся пад уплывам партыі эсэраў У гурток увайшлі В. Кавальчук, Р. Сарачынскі, В. Цехановіч, А Буцанец. Сходкі праходзілі ў доме В. Слаболера Іх удзельнікі распаўсюджвалі сярод сялян антыўрадавыя і антырэліг. погляды. Аднак у маі 1903 Каток быў высланы на жыхарства ў Мінск, і дзейнасць гуртка прыпынілася. Зноў актывізавалася ў канцы 1904 пасля вяртання з ссылкі Бонч-Асмалоўскага і Цехановіча У 1905 яны заснавалі суполку Усерасійскага сял саюза, у рабоце якой прымалі ўдзел эсэры, прадстаўнікі мінскіх арг-цый РСДРП і Бел сацыяліст. грамады (БСГ) Сумеснымі намаганнямі рэв. партый у Блоні пачалася падрыхтоўка сялян-агітатараў, якія разыходзіліся потым па маентках і вёсках. Наймаючыся батракамі, кавалямі, цеслярамі, яны вялі масавую прапаганду рэв. ідэй, рыхтавалі сял. выступленні супраць памешчыкаў. Ва Устаноўчым з'ездзе Усерасійскага сял. саюза (31.7—1.8.1905, Масква) ад Б. с. а. ўдзельнічалі Бонч-Асмалоўскі, Р. Гайдук і «Канстанцін» (прозвішча не ўстаноўлена). З дапамогай найб. свядомых сялян М. Лукашыка, М Цехановіча, Катка, С. Мігуцкага, Дз. Васкабовіча, В Шыбайлы рэгулярна праводзіліся мітынгі, на якіх збіралася да 500 чал. з навакольных весак. З 1906 у сувязі з узмацненнем паліцэйскага тэрору арг-цыя страціла сваю актыўнасць, паменшыўся ўплыў РСДРП і БСГ. Спыніла існаванне ў сувязі з прыцягненнем Бонч-Асмалоўскага, яго жонкі, сына Івана і найб актыўных сялян да судовага следства.

*Літ* Бонч-Асмалоўскі А В Эпоха 1905 г Мае ўспаміны // Полымя 1925 № 6—7, Зміонка А Сацыялістычны рух на Беларусі II Партыя сацыялістаў-рэвалюцыянераў // Беларусь Нарысы гісторыі, эканомікі, культ і рэв руху. Мн, 1924 С 152, 156—156
*З В Шыбека*

Герб г Бобр (пацверджаны ў 1762)

**БОБР**, гар пасёлак у Крупскім р-не, на р. Бобр, за 10 км на ПнУ ад Крупак, 2 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Мінск — Орша, на аўтадарозе Мінск — Смаленск 1522 жыхары (1992)

У гіст крыніцах упершыню згадваецца ў 1516, калі кн Іван Васілевіч Друцкі-Красны завяшчаў сваёй жонцы Марыне Іванаўне з князёў Заслаўскіх Б разам з Сакаловічамі і Недаходавам Нашчадкаў у князя і яго жонкі не засталося, Б з воласцю адышоў да вял князя Жыгімонта І Старога. У 1559 упамінаецца разам са Шкловам як уласнасць Ераніма Хадкевіча Магчыма, што перад гэтым Б быў падараваны Жыгімонтам А Гаштольду (памёр у 1539) і да Хадкевіча трапіў адначасова са Шкловам, Быхавам і інш пры падзеле маенткаў Гаштольдаў, род якіх вымер у 1542. У 1561 Б. адышоў да Яна Ераніма Хадкевіча, у 1579 да яго сына Аляксандра Хадкевічы не жылі ў Б, здавалі яго ў арэнду (заставу) Захаваўся дакумент перадачы Б ў заставу швагру Яна Хадкевіча Станіславу Пацу ў 1573 На той час Б — мястэчка ў Аршанскім пав., 71 дом, гаспадарчы двор Да маентка належалі вёскі Забаброўе, Сакаловічы, Панкавічы, Манасціровічы. Пасля Паца Б быў у заставе ў канцлера Л. Сапегі, які перадаў яго ў 1604 свайму слугу Станіславу Галінскаму, пры якім заснавана Прудзінская Слабада (цяпер в. Прудзіны) У 1614 граф Аляксандр Хадкевіч прадаў свае правы на маентак арандатару Крыштафу Камару за 7000 коп літ грошаў, мястэчка налічвала 172 дамы, 6 вуліц, мела гандл. плошчу з карчмой і пастаялым дваром, млын. Да воласці належалі Забаброўе, Сакаловічы, Панка

вічы (Панькавічы), Манасцяровічы (Манастары), Прудзінская Слабада. Некалькі дзесяцігоддзяў Б належаў К. Камару і яго сыну Ераніму (Ярашу, які, верагодна, заснаваў в. Ярашоўка). У 1699 маенткам валодаў Бенядзікт Сапега. Яму належалі 9 вёсак· Стары Бобр (б. Забаброўе), Пліса, Куты, Ярашоўка, Прудзіны, Красная Слабада, Ламское, Шацькі, Пасем'е. У 1700 Бенядзікт Сапега пакінуў Б. за 35 тыс. злотых Яну Казіміру Лендорфу, стольніку мсціслаўскаму. У 1733 Б перайшоў да кн Марцыяна Міхала Агінскага, у 1750 адышоў да яго сына Ігнацыя (памер у 1775) У 1762 Б. атрымаў магдэбургскае права, меў герб. у блакітным полі 2 збройныя постаці ў княжацкіх мантыях і каронах. З 1793 у складзе Расійскай імперыі, цэнтр воласці Сенненскага пав. Магілеўскай губ. У 18 ст. ўзведзены мураваны Марыінскі касцел, у 1842 пабудавана царква (не захавалася). У 1828—1914 працавала цагельня. У 1863 у Б. 1113 ж., у 1885 2 царквы, касцел, капліца, сінагога, лячэбніца на 12 месцаў, нар. вучылішчы (з 1869), 3 яўрэйскія школы, праваслаўная школа, 2 млыны, 22 крамы, адбываліся 3 кірмашы на год. У 1904 працавалі 2 цагельні (115 рабочых). У 1907 у Б. 445 дамоў, 2340 ж., 35 крам Сав. ўлада ўстаноўлена ў ліст. 1917. У 1918 акупіраваны германскімі войскамі. З лют. 1919 у РСФСР у Аршанскім пав., з сак. 1924 у БССР З 17.7.1924 мястэчка Крупскага р-на, з 27.9.1938 веска, з 17.2.1941 гар. паселак. У 1930 створаны калгас «Камінтэрн», у 1931 арганізавана арцель па апрацоўцы дрэва «Ударнік». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія 10.10 1941 расстралялі 961 мірнага жыхара. Вызвалены 27.6.1944 воінамі 3-га Бел фронту ў ходзе *Віцебска-Аршанскай аперацыі 1944* У 1960 калгас пераўтвораны ў саўгас «Бобр» У 1969 3 тыс. ж.; асфальтавы з-д, спіртзавод, філіял Барысаўскага з-да музычных дэталей, кінатэатр, 3 магазіны, лясніцтва, сярэдняя школа, дзіцячы сад, 2 бібліятэкі. Брацкая магіла сав. воінаў, помнік землякам, што загінулі ў Вял. Айч. вайну, магіла ахвяр фашызму.

*В Л Насевіч, Т Р Чуракова*

**«БОБРУ́ЙСКАЯ ЖИЗНЬ»**, грамадска-палітычная і літаратурная газета бурж.-ліберальнага кірунку. Выдавалася з 7(20).2.1913 да 1(14).8.1914 у Бабруйску на рус. мове тры разы на тыдзень. З 16(29).5 1913 да 26.3(8.4).1914 не выходзіла. Апошнія выпускі (№ 85—92) выходзілі штодзенна. З 27.7.1914 друкавала 1—2 разы на дзень «Тэлеграмы газеты «Бобруйская жизнь». Рэдактар-выдавец Б. М. Бахрах. У праграмным артыкуле рэдакцыя заявіла, што імкнецца стварыць газету, якая «не будзе афарбавана ні партыйнай, ні нацыянальнай фарбай, а будзе прагрэсіўным агульначалавечым выразнікам усіх наспелых патрэб і неабходных рэформ мясцовага жыцця» (7.2.1913). Друкавала міжнар. інфармацыю, мясц. хроніку, паведамленні пра дзейнасць Дзярж. думы, фельетоны з крытыкай мясц. улад за непаладкі гар. гаспадаркі і побыту. Прыхільна пераказвала лекцыі кадэцкіх лідэраў А. І. Шынгарова («Новая Дума і старыя задачы») і П. М. Мілюкова («Нацыянальнасць і дзяржава»), з якімі яны выступілі ў Бабруйску ў 1914. У газеце супрацоўнічаў будучы філосаф-марксіст С. Я. Вальфсон. У літ.-крытычных нататках газета спагадліва пісала пра творчасць Л. Андрэева, С. Надсана, А. Чэхава. Змяшчала вершы мясц. паэтаў, асвятляла тэатральнае і музычнае жыццё Бабруйска.

*У М Конан*

**«БОБРУ́ЙСКИЕ О́ТКЛИКИ»**, штодзенная грамадска-палітычная і літаратурная газета ліберальнага кірунку. Выдавалася з 11(24).8.1911 да 16(29).5. 1912 у Бабруйску на рус. мове. Выдаўцы Ё. Е. Салавейчык, Б. Ё. Гінзбург; рэдактары Я. Ё. Марголін, Гінзбург. Газета змяшчала звесткі пра міжнар. і ўнутр. становішча, дзейнасць урада, Дзярж. думы і разнастайныя бакі мясц. жыцця, навук.-асв. артыкулы, фельетоны, вершы і белетрыстыку, мела літ-крытычны і тэатральны аддзелы. Адлюстроўвала эканам., паліт., сацыяльна-культурную пазіцыю сярэдняй і дробнай гар. буржуазіі і інтэлігенцыі пераважна з асяроддзя абрусеелых яўрэяў· яны спачувалі яўрэйскаму культурна-нац. адраджэнню, сіяніцкаму руху і, паколькі сваей радзімай лічылі Расію, імкнуліся ператварыць яе ў бурж.-дэмакратычную рэспубліку, заснаваную на раўнапраўі ўсіх нацыянальнасцей. Пасля смяротнага ранення ў вер. 1911 яўрэем-пярэхрыстам Дз. Багровым старшыні Савета Міністраў П. А Сталыпіна газета адмежавалася ад тактыкі тэрору, аднак асуджала сталыпінскі вялікадзярж.-шавіністычны курс. Падтрымлівала ідэю культурна-нац. аўтаноміі народаў Расіі, але праблему нац. самавызначэння бел. народа амаль не закранала, замоўчвала бел. гісторыю, л-ру і мастацкую творчасць. У заўвагах да лекцый аднаго з лідэраў сіяніцкага руху У. Жабацінскага газета крытыкавала утапічныя планы аднаўлення традыц. яўрэйскай культуры, выступала супраць адмовы ад рус. мовы як важнага сродку сувязі з новай сусв. культурай. Аднак падтрымлівала ідэю яўрэйскага месіянства, сцвярджаючы, што яўрэі спрадвеку выконвалі ролю «дражджэй у сусветным развіцці, стоячы заўсёды на перадавых пазіцыях разумовага і культурнага жыцця Еўропы», і нават тады, калі яны «эмансіпіруюцца» ад сваей тэрыторыі і нац. мовы, усе ж будуць стварыць сваю культуру і накладваць сваю адметнасць «на ўсе з'явы сусветнага жыцця» (28.1.1912) Газета змяшчала матэрыялы, прысвечаныя 100-годдзю з дня нараджэння А. І. Герцэна. Прапагандуючы маральна-філас. канцэпцыю Л. Талстога, газета захаплялася «культам талстоўства», бачыла ў пісьменніку хутчэй «прарока» і «сумленне Расіі», чым выкрывальніка эксплуататарскага ладу. З пазіцый крытычнага рэалізму ацэньвала творчасць А. Пушкіна, Л. Андрэева, М. Горкага, А. Чэхава, Г. Ібсена, К. Гамсуна і інш. рус. і зарубежных пісьменнікаў. Друкавала вершы, апавяданні, нарысы мясц. аўтараў, значнае месца адводзіла камерцыйнай рэкламе.

*У М Конан*

І. М. Богдан.

Царква канца 19 ст ў в Богіна Браслаўскага р-на

**БО́БРЫЦКАЯ АПЕРА́ЦЫЯ 1942**, падрыў партызанамі партыз. злучэння Мінскай і Палескай абл. чыгуначнага моста цераз р. Бобрык на лініі Калінкавічы — Жыткавічы (паміж станцыямі Капцэвічы — Пціч) у Петрыкаўскім р-не 9.12.1942. У аперацыі ўдзельнічалі 6 партыз. атрадаў. Кіраваў аперацыяй штаб злучэння. 40-метровы мост моцна ахоўваўся: 36 каравульных, 4 дзоты з кулямётамі, на чыг. раз'ездзе за 1 км ад

моста — узвод салдат, за 10 км ад моста на ст. Капцэвічы — буйны гарнізон праціўніка (батальён 101-га славацкага палка, рота мадзьяраў, каля сотні ням. жандараў, паліцыя і інш. падраздзяленні). Праціўнік мог атрымаць дапамогу і з інш. гарнізонаў. Перад аперацыяй партызаны звязаліся з нач. штаба 101-га славацкага палка Я. *Налепкам,* які запэўніў, што славакі не ўступяць у бой з партызанамі. У ходзе аперацыі партызаны атрадаў імя Я. Д. Гарбачова (камандзір А. І. Далідовіч) і Капаткевіцкага (камандзір А. А. Жыгар) разбурылі чыг. палатно і лініі сувязі на З і на У ад моста, арганізавалі засады на дарогах. Партызаны 125-га атрада (камандзір І. Н. Глушко) знішчылі ахову на раз'ездзе. Байцы атрада Дз. Ц. *Гуляева* на ўчастку Старушкі — Капцэвічы пусцілі пад адхон вайсковы эшалон, які ішоў на У. Партызаны атрадаў імя Гастэлы (камандзір К. Ф. Пушчын) і імя Суворава (камандзір М. П. Бумажкоў) атакавалі і знішчылі ахову моста, узялі ў палон 13 гітлераўцаў. Падрыўнікі пад кіраўніцтвам У. Шымчонка і Пушчына замініравалі і ўзарвалі мост. У баі загінуў адзін партызан. У выніку аперацыі рух на чыгунцы быў спынены на 7 сутак.

*Літ.:* Всенародное партизанское движение в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944): Документы и материалы. Т. 1. Мн., 1967. С. 510; Т. 2, кн. 1. Мн., 1973. С. 42; Мачульский Р. Вечный огонь: Партиз. зап. 3 изд. Мн., 1978. С. 146—150.

*М. У. Філімоненкаў.*

**БО́ГДАН** Іван Міхайлавіч (1888, в. Вялікая Ухалода Барысаўскага пав., цяпер Барысаўскі р-н — 1972), поўны Георгіеўскі кавалер. Скончыў царк.-прыходскую школу. З 14 гадоў працаваў у Барысаве ганчаром. У 1908 прызваны ў армію, скончыў палкавую школу мал. камандзіраў. За паспяховае кіраўніцтва ў баявых дзеяннях у час 1-й сусв. вайны 1914—18 узнагароджаны медалём «За храбрасць» і Георгіеўскім крыжам 4 ступеней. Пасля Лют. рэвалюцыі 1917 прымкнуў да бальшавікоў, вёў паліт. работу сярод салдат, працаваў у выбарчых органах рэв. арміі. У 1918 накіраваны на Барысаўшчыну для мабілізацыі насельніцтва ў Чырвоную Армію, быў кіраўніком валаснога ваен. камісарыята. У 1920 вярнуўся да прафесіі ганчара. У 1930-я гады працаваў на керамічна-посудным прадпрыемстве ў Барысаве. Яго вырабы дэманстраваліся на выстаўках у Маскве. Вучыў свайму майстэрству моладзь. У гады Вял. Айч. вайны жыў у в. Вялікая Ухалода, за дапамогу партызанам быў арыштаваны гітлераўцамі. Пасля вайны працаваў у калгасе. *Ж. В. Гілевіч.*

**БО́ГДАН** Сцяпан Пятровіч (каля 1890, Чапліцкая вол. Слуцкага пав. Мінскай губ.— ?), поўны Георгіеўскі кавалер. Служыў у 99-м пях. Івангародскім палку, радавы. У 1914 скончыў школу падпрапаршчыкаў. У 1-ю сусв. вайну камандзір узвода. Узнаг. Георгіеўскім крыжам 4-й (1914), 3-й і 2-й (1915), 1-й [1916, за бой каля мяст. Смаргонь 7(20).9.1915] ступеней.

Памятныя дошкі ў гонар загінуўшых у 1-ю сусветную вайну салдат і афіцэраў рускай арміі ў інтэр'еры царквы ў в. Богіна Браслаўскага р-на.

**БО́ГІНА,** вёска ў Далёцкім сельсавеце Браслаўскага р-на, на паўн.-зах. беразе воз. Богінскае. За 35 км на ПдЗ ад Браслава, 33 км ад чыг. ст. Дукштас (Літва). Цэнтр калгаса імя Мічурына. 138 двароў, 379 жыхароў (1992).

У гіст. крыніцах упершыню ўпамінаецца ў 1514 як уладанне роду Геталтаў (1514—1629). Пазней належала родам Кімбараў (1631—57), Бенетаў (з 1691), Цеханавецкіх (1738—80), Мануззі (1780—1829), Плятэраў (з 1829). У 1738 у Б. было 5 гаспадарак, 10 валок зямлі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Расійскай імперыі, цэнтр Богінскай вол. Дзісенскага пав. Мінскай, з 1842 Віленскай губ. У 17 ст. ў Б. пабудавана уніяцкая царква, у 1829 — каталіцкая капліца (філіял Іказненскай парафіі). На размешчаным побач з Б. востраве Гарадзішча да 19 ст. была язычніцкая бажніца, разбураная войскамі М. М. Мураўёва ў час задушэння паўстання 1863—64 у Польшчы, на Беларусі і ў Літве. У 19 ст. на зах. беразе воз. Богінскае былі царква, дом святара, фальварак графа Плятэра, млын, карчма; на ўсходнім — прыпісная царква, валаснае праўленне, нар. вучылішча. У ліп. 1901 адбыліся хваляванні сялян Богінскай вол. (у вёсках Богіна, Сіпавічы, Стаўрова і інш.) як пратэст супраць новага межавання зямлі. У 1-ю сусв. вайну ў наваколлі Б. вяліся актыўныя баявыя дзеянні. На ўшанаванне памяці салдат і афіцэраў рус. арміі, якія загінулі ў час вайны, у царкве ўстаноўлены памятныя дошкі. У 1915 Б. разбурана герм. войскамі. У маі 1917 сяляне Богінскай вол. захапілі паравы млын Плятэра. З 1922 Б. ў складзе Польшчы, цэнтр гміны Браслаўскага пав. Васьмігадовая школа, б-ка, клуб, фельчарска-акушэрскі пункт, аддзяленне сувязі, 2 магазіны, лясніцтва, піларама. Помнікі: сляды паселішча жал. веку на востраве Гарадзішча, курганны могільнік 8—11 ст. (упершыню даследаваны ў 1886 У. Плятэрам), капліца (пач. 19 ст.), царква (канец 19 ст.), помнік землякам, што загінулі ў Вял. Айч. вайну; магілкі рус. воінаў, што загінулі ў 1-ю сусв. вайну. Зберaглася штучная дамба (пабудавана ў 1787), якая падзяляе воз. Богінскае на 2 часткі: уласна воз. Богінскае і воз. Высокае.

*Літ.:* Покровский Ф. В. Курганы на границе современной Литвы и Белоруссии // Труды IX Археологического съезда в Вильне, 1893. М., 1895. Т. 1; Материалы по истории и географии Дисненского и Вилейского уездов Виленской губернии. Витебск, 1896; Hedemann O. Historja powiatu Brasławskiego. Wilno, 1930.

*К. С. Шыдлоўскі.*

**БО́ГУШ** Францішак Ксаверый Міхал (1.1.1746, Вількамірскі пав. Віленскага ваяв.— 4.4.1820), філосаф, гісторык, тэолаг, пісьменнік ВКЛ. Скончыў езуіцкі калегіум і Віленскую езуіцкую акадэмію. Пасля ліквідацыі ордэна езуітаў (1773) застаўся без заняткаў. Па прапанове графа А. Тызенгаўза ў якасці хатняга настаўніка быў з ім у Германіі, Францыі, Італіі. Пасля адстаўкі Тызенгаўза жыў у Вільні, займаўся навукай. Удзельнічаў у *Барскай канфедэрацыі* (як ген. сакратар), у паўстанні Т. Касцюшкі, за што быў інтэрніраваны ў Смаленск. Пасля вяртання ў Вільню стаў прэлатам. Апошнія гады жыў і працаваў у Варшаве, цалкам прысвяціў сябе навук. дзейнасці. Удзельнічаў у Т-ве аматараў навукі, быў цэнзарам. Ганаровы чл. шматлікіх еўрапейскіх навук. т-ваў. Шэраг найб. важных прац Б. неапублікаваны. Аўтар твораў «Філасаф без рэлігіі» (1785), «Пра пачатак народа і мовы літоўскай» (1808), «Успаміны пра Антонія Тызенгаўза» (1820) і інш.

*Літ.:* Bielińskі J. Uniwersytet Wileński (1579—1831). T. 2. Kraków, 1899—1900.
*Дз. У. Караў.*

**БО́ГУШ-СЕСТРАНЦЭ́ВІЧ** Станіслаў Іванавіч (3.9.1731, в. Занкі Ваўкавыскага пав. Навагрудскага ваяв., цяпер Свіслацкі р-н — 1.12.1826), беларускі вучоны, царк. дзеяч, літаратар. З шляхецкай сям'і пратэстанцкага веравызнання. Дзядзька В. *Дуніна-Марцінкевіча.* Вучыўся ва ун-тах Кралеўца (цяпер Калінінград), Франкфурта, Амстэрдама, Лондана. Служыў афіцэрам у прускім гусарскім палку і літ. гвардыі. Пасля выхаду ў адстаўку (1761) працаваў хатнім настаўнікам у Радзівілаў. Пад уплывам нявесты (шлюб не адбыўся) перайшоў у каталіцызм. Скончыўшы Варшаўскую гал. школу піяраў (1763), быў настаяцелем ў Гомелі і Бабруйску, канонікам і епіскапам-суфраганам у Вільні. З 1773 біскуп Бел. біскупства, з 1782 Магілёўскі арцыбіскуп. З'яўляўся прыхільнікам ідэй гуманізму і асветніцтва, спрыяў адкрыццю школ на Беларусі, развіццю кнігавыдавецкай справы. Заснаваў *Магілёўскую друкарню.* Абапіраючыся на падтрымку імператрыцы Кацярыны II, якая дамаглася для яго ад папы рымскага права на знак кардынала, процідзейнічаў пашырэнню ўплыву Ватыкана на Усходзе. Спачуваў *паўстанню 1794* у Польшчы, на Беларусі і ў Літве. З 1798 мітрапаліт усіх рымска-каталіцкіх касцёлаў у Расійскай імперыі. З 1801 да канца дзён сваіх жыў у Пецярбургу. Апекаваўся навукай і сам працаваў у галіне гісторыі, філалогіі, медыцыны і інш. Выбіраўся членам Расійскай акадэміі навук, Пецярбургскай медыка-хірургічнай акадэміі. З 1813 прэзідэнт Вольнага эканам. т-ва. У 1793 выдаў у Магілёве сваю гіст.-краязнаўчую працу «Аб Заходняй Расіі», у якой разгледзеў праблему паходжання беларусаў, украінцаў і рускіх. Аўтар «Гісторыі Таўрыды» (т. 1—2. Брауншвейг, 1800, рус. пер. Спб., 1806), «Гісторыі сарматаў і славян» (т. 1—4. Спб., 1812), «Граматыкі літоўскай» (мелася на ўвазе граматыка бел. мовы; не выдадзена) і інш. навук. прац. Напісаў, паставіў і выдаў у Магілёве вершаваную трагедыю «Гіцыя ў Таўрыдзе» (1783). Пісаў вершы, казанні і інш. дыдактычныя творы. Захапляўся помнікамі старажытнасці, збіраў манускрыпты. Пахаваны ў Пецярбургу ў пабудаваным ім касцёле св. Станіслава.

*Літ.:* Краткое начертание деятельной и трудовой жизни... Станислава Богуша-Сестранцевича. Спб., 1826; Каханоўскі Г. А. Адчыніся, таямніца часу. Мн., 1984. С. 69—75; Stachowski T. Rys zycia i prac naukowych s. p. St. Siestrencewicza, arcebiskupa, mitropolity. Kraków, 1839.
*Г. А. Каханоўскі.*

**БО́ГУШ-СЕСТРАНЦЭ́ВІЧ** Станіслаў Станіслававіч (1869, Вільня — 1927), графік і жывапісец. Творчасць звязана з мастацкім жыццём Літвы і Беларусі. Вучыўся ў Пецярбургскай акадэміі мастацтваў (1889—94). Шмат падарожнічаў па Беларусі і Літве. У жанравых творах адлюстраваў побыт бел. і літ. сялян і гараджан, высмейваў норавы мяшчан. Аўтар ілюстрацый да апавядання Э. Ажэшкі «Гэдалі» (1907), графічных лістоў «У мястэчку», «Злоўлены жывым», «Праца ў фальварку», «Цыганы» і інш., а таксама карцін «Баль у Мінску», «Прачкі». Удзельнік выставак Пецярбургскага т-ва мастакоў (1890—1900) і мастацкай у Мінску (1911).

С. І. Богуш-Сестранцэвіч.

С. Богуш-Сестранцэвіч. Праца ў фальварку. Канец 19— пач. 20 ст

*Літ.:* Дробов Л. Н. Живопись Белоруссии XIX — начала XX в. Мн., 1974.

**БО́ГША** Лазар (г. н. і см.?), полацкі майстар-ювелір 12 ст. Вольны рамеснік. У 1161 стварыў шэдэўр стараж.-рус. мастацтва — *крыж Ефрасінні Полацкай.* Мастацкія асаблівасці крыжа сведчаць пра сувязі з традыцыямі кіеўскай ювелірнай школы.

*Літ.:* Алексеев Л. В. Лазарь Богша — мастер-ювелир XII в. // Сов. археология. 1957. № 3.

**«БО́ЖЫМ ШЛЯ́ХАМ»**, грамадска-рэлігійны, літаратурна-гістарычны часопіс. Выдаваўся бел. грэка-каталіцкім (уніяцкім) духавенствам у Парыжы ў 1947—57 і Лондане ў 1957—80 на бел. мове. Выйшаў 151 нумар. Рэдактарамі і аўтарамі большасці публікацый у розныя часы былі айцы: Ч. Сіповіч, Л. Гарошка, Я. Германовіч, А. Надсан. Асвятляў пытанні гісторыі хрысціянства, хрысціянскай царквы, царк. будаўніцтва, рэліг. адносін на Беларусі, асабліва уніяцкага руху, узаемазалежнасць рэлігіі, культуры, нац. самасвядомасці ў развіцці бел. народа. Асэнсоўвалася роля хрысціянскіх асветнікаў, царк. дзеячаў Ефрасінні Полацкай, Клімента Смаляціча, Кірылы Тураўскага, заснавальнікаў айч. кнігадрукавання Ф. Скарыны, В. Цяпінскага, братоў Мамонічаў у станаўленні і ўзбагачэнні бел. культуры. Гісторыка-факталагічнае, крыніцазнаўчае, канцэптуальнае значэнне маюць артыкулы «Асновы беларускага патрыятызму» (1947, № 3) і «Рукапіс Архірэйскай літургіі з XVII ст.» (1972, № 4) Ч. Сіповіча, «Царкоўная музыка на Беларусі» (1964, № 83—85) Г. Піхуры, (Г. Пікарды), «Пад знакам «рускае і польскае» веры» (1954—55) Л. Гарошкі, «Заходняя літаратура на Беларусі ў XV—XVII ст.» (1968, № 1, 3) А. Надсана, «Лёс помнікаў старога беларускага пісьменства (рукапіснага і друкаванага)» (1974, № 1,2) А. Калубовіча, «Кніга Скарыны ў Капенгагене» (1971, № 5) Надсана пра унікальны, камплектны паасобнік «Пасхаліі» Скарыны, што дазволіла ўдакладніць пачатак кнігавыдавецкай дзейнасці бел. першадрукара на радзіме, у Вільні (1522). Друкаваліся творы бел. пісьменнікаў В. Адважнага (Я. Германовіча), А. Салаўя, Н. Арсенневай, Ю. Віцьбіча (Ю. Стукаліча), Я. Брыля, Р. Барадуліна, Г. Каржанеўскай, А. Барскага. Пад рубрыкай «Беларуская хроніка» падаваліся весткі пра грамадска-паліт. становішча ў БССР (з акцэнтам на праявы асіміляцыі адносна бел. мовы), рэлігійна-царк. жыццё рэспублікі, дзейнасць бел. асяродкаў на эміграцыі, у т. л. Бел. бібліятэкі і музея імя Ф. Скарыны ў Лондане, Англа-бел. навуковага т-ва, Бел. згуртавання ў Англіі.
*А. К. Каўка.*

**БО́ЖЫНА** (Божын, у 1964—91 Прырэчча), вёска ў Багушэвіцкім сельсавеце Бярэзінскага р-на, на правым беразе р. Бярэзіна. За 15 км на Пд ад г. Беразіно, 50 км ад чыг. ст. Градзянка, 41 двор, 85 ж. (1991).

У пісьмовых крыніцах упамінаецца як сяло Божын з часоў Вітаўта (канец 14 — пач. 15 ст.), калі яно было падаравана невядомаму шляхціцу. Каля 1480 сяло Б. Свіслацкай вол., зноў у складзе велікакняжацкіх (гаспадарскіх) уладанняў і падаравана Казімірам IV Ягелончыкам ашмянскаму шляхціцу Дзягірду, якому 18 «чалавек» (сял. гаспадарак) даннікаў плацілі 2 уставы мёду даніны. У 1492 унук Дзягірда эйшышскі дзяржаўца і маршалак дворны Якуб Ганусавіч падараваў шэраг сваіх маёнткаў, у т. л. і Б., віленскаму біскупу Войцеху. Аднак сваякі апратэставалі гэты дар як незаконны і дамагліся вяртання часткі маёнткаў, у т. л. і Б. У 1526 частка даннікаў маёнтка — з сяла Б. Віленскага пав., што знаходзілася на «Русі» каля

Бярэзіны,— належала Пятру Гінцу. У сярэдзіне 16 ст. саўласнікамі (сябрамі) Б. была вял. родная група пераважна ашмянскай шляхты: Балтрамеевічы, Марцінавічы, Нарушэвічы, Петрашковічы і інш. Паміж імі неаднаразова ўзнікалі судовыя справы ў сувязі з рознымі ўзаемнымі парушэннямі права ўласнасці. Але ўсе яны сумесна абаранялі межы свайго маентка ад парушэнняў іх суседзямі. Найбольш вядомым саўласнікам Б. быў земскі падскарбі, маркаўскі і мядзельскі дзяржаўца Мікалай Паўлавіч Нарушэвіч, які ў 1567 выстаўляў у войска 40 конных воінаў па абавязку і 60 «на ласку гаспадарскую» (добраахвотна). У канцы 16 ст. маентак Б. Менскага пав. быў уласнасцю толькі роду Нарушэвічаў. У 1605 сын смаленскага кашталяна Альбрыхт Станіслававіч Нарушэвіч падараваў сваю палавіну божынскіх даннікаў стрыечнаму брату лоўчаму ВКЛ, лаздзейскаму старосце Яну. У хуткім часе Б. нейкім чынам стала ўласнасцю роду Валовічаў. У 1630 віленскі біскуп Яўстафій Валовіч ахвяраваў значную частку даходаў з Б. на ўтрыманне капліцы, якую ён заснаваў у гал. касцёле біскупства — касцёле Станіслава ў Вільні. Аднак яго нашчадкі — уласнікі Б.— аддавалі адпаведныя грошы на ўтрыманне капліцы нясвоечасова і нярэдка пад прымусам. Паводле ліста 1670 пра падзел маёнткаў віленскага земскага пісара Марцыяна Валовіча паміж яго сынамі — шляхцічамі розных паветаў Вінцэнтам, обальскім старостам Дамінікам і Янам,— Б. перайшоў у спадчыну Дамініку. Цэнтрам маёнтка быў панскі двор, што знаходзіўся на Пд ад сяла Б. У склад маентка ўваходзілі селы Божын (12 валок), Нягонічы (Неговичи?, Веховичи?, 20 валок), Паложын (цяпер Паложына, 20 валок) і слабада Марцінаўка (да 1967 в Новая Марцянаўка, 12 валок) Акрамя сял. валок у маентку было шмат зямлі, якая знаходзілася ў непасрэдным распараджэнні пана паша, сенажаці, лясы, зямля пад панскай сядзібай і фальваркам. Як і інш. маенткі Валовічаў, Божын быў абцяжараны вял. даўгамі. Паводле інвентара 1743, складзенага ў сувязі з закладам маёнтка за 40 тыс. злотых серабром рэчыцкаму скарбнаму Ю. К. Бучынскаму, ён складаўся з панскага двара са шматлікімі жылымі і гасп. будынкамі, уніяцкай царквы, фальварка, розных прадпрыемстваў па перапрацоўцы с.-г. прадукцыі (бровары, сыраварня, млыны і інш.) і корчмаў, весак Божын, Нягонічы, Паложын, Слабада (Марцянаўка). У вёсцы Б. было 16 сял. гаспадарак (дымоў). Частка іх з'яўлялася гаспадаркамі вял. непадзеленых сем'яў. Сялянскія гаспадаркі карысталіся 3,75 валокамі зямлі (4 — па 0,125 валокі, 11 — па 0,25, 1 — 0,5 валокі). Большая частка зямлі (5,25 валокі) пуставала. Асноўнай адзінкай абкладання сялян феад. павіннасцямі была чвэрць валокі, якой звычайна карысталіся 1 або 2 гаспадаркі. За надзел у чвэрць валокі цяглыя сяляне вёскі выконвалі розныя павіннасці. Галоўнай павіннасцю была паншчына (прыгон) — па 2 дні на тыдзень з інвентаром. У лік асн. павіннасцей уваходзілі: чынш — 16 злотых, запісное — па шастаку, гвалты (талокі) — па 4 дні летам у жніво, мед — па паўпуда, куры — па адной, грыбы — па капе. Сяляне абавязаны былі выконваць і дадатковыя павіннасці: даваць па гарцу чарніц і брусніц, паўкапы дранніц; плесці па сажню невада і, сабраўшы яго з усей воласці, лавіць ім рыбу для пана, калі будзе загадана; па чарзе вартаваць панскі двор; даваць падводы на патрэбу двара; падсыпаць грэблі; будаваць і рамантаваць масты ў Божынскай вол. Інвентаром прадугледжвалася таксама рацыянальнае выкарыстанне багатых тут угоддзяў — бортніцкіх, рыбалоўных, паляўнічых, у т. л. і бабровых. Бярэзіна была судаходнай і сплаўной ракой, таму ўласнікі маентка мелі даходы ад мыта і праязных пошлін (абестак). Паводле люстрацыі Менскага ваяв. 1790, маентак Божын складаўся з панскага двара і 12 населеных пунктаў вёскі Божына, Глухі Ток, засценак Гута, веска і фальварак Марцянаўка, засценак Мурава (цяпер не існуе), веска і фальварак Нягонічы, вёскі Паложын, Палозы (цяпер, верагодна, Святліца), Паплавы, слабада Перавоз, в. Трасцянка. Існавалі 4 карчмы. У маентку было 125 сял. дымоў, у т. л. 85 дымоў з надзелам ад 0,25 да 1 валокі, 25 агароднікаў, 15 халупнікаў. Цяглыя сяляне, або паншчынныя, складалі 80 %, чыншавыя — 20 %.

Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) маентак Божын увайшоў у Ігуменскі пав. Мінскай губ Паводле «Камеральнай эканамічнай заўвагі Мінскай губерні...» 1800, належаў Міхаілу Валовічу, складаўся з панскага двара, сяла Б. з пабудаванай у 1777 драўлянай уніяцкай царквой Ілы, карчмой і млынам (44 сял. двары, 333 чал. мужчынскага і жаночага полу, 5 цыганоў), 10 весак (без фальваркаў і корчмаў) Божын Новы, або Перавоз, з карчмой і перавозам — паромам цераз Бярэзіну (12 гаспадарак, 96 чал.), Глухі Ток (6 гаспадарак, 24 чал.), Гута з карчмой і млынам (3 гаспадаркі, 20 чал.), Марцьянаўка з фальваркам, дзе быў і дом аканома, карчмой (6 гаспадарак, 39 чал.), Мураўна (6 гаспадарак, 26 чал.), Нягонічы з фальваркам, карчмой і млынам (33 гаспадаркі, 238 чал.), Паложын (5 гаспадарак, 37 чал.), Палозы (2 гаспадаркі, 9 чал.), Паплаўка (19 гаспадарак, 137 чал.; цяпер Паплавы), Трасцянка (5 гаспадарак, 29 чал.). Усяго ў маентку зафіксаваны 141 сял. двор, 469 мужчын і 523 жанчыны. Галоўнай павіннасцю сялян заставалася паншчына. Акрамя земляробства, сяляне займаліся вырабам драўлянага посуду на продаж, наймаліся ў купцоў сплаўляць лес па Бярэзіне. У корчмах гаспадарылі яўрэі. У пач. 19 ст. маентак Божын належаў графу Казіміру Плятэру. У 1807 дзякуючы намаганням святара уніяцкай Капланецкай царквы, які ахвяраваў 3 тыс. рублёў, і Плятэру, які падараваў сядзібу з домам і гасп. пабудовамі, у Божыне адкрыта прыходскае вучылішча для дзяцей бедных духоўных асоб і дваран (існавала да 1874). Паводле інвентара 1811, маентак Божын складаўся з панскага двара, мястэчка Б., весак Глухі Ток, Гута, Міхалаў (цяпер Міхалева), Мурава, Паложын, Палозы, Паплавы, Перавоз, Слабада, Трасцянка, Элеанораў (цяпер Вінорава), Ядліна (Едліна), а таксама Марцянаўка і Нягонічы з фальваркамі. У 1815 частка маентка з мястэчкам (18 двароў)

Мяст Божына на ваенна тапаграфічнай карце Расіі 1850

пад яго камандаваннем фарсіравалі Дняпро, з ходу атакавалі праціўніка, захапілі і ўтрымалі плацдарм, адбілі 4 варожыя контратакі, што спрыяла поспеху пры пераправе астатніх падраздзяленняў. Скончыў акад. курсы палітсаставу пры Ваен. акадэміі бранятанкавых і механізаваных войск (1946), курсы палітсаставу (1956). Да 1958 у Сав. Арміі, падпалкоўнік. Ганаровы грамадзянін г. Грабёнка Палтаўскай вобл.

**БО́ЛБАС** Максім Фёдаравіч (н. 1.7.1918, в. Слабодка Бабруйскага р-на), беларускі эканаміст. Д-р эканам. навук (1984), праф. (1985). Скончыў БДУ (1948). З 1934 на пед. рабоце ў Клічаўскім р-не, у Камчацкай вобл. У Вял. Айч. вайну партызан атрада імя Кірава 37-й брыгады імя Пархоменкі Мінскай вобл. З 1944 дырэктар школ у Баранавіцкай вобл., выкладчык Бабруйскага педвучылішча, Бел. с.-г. акадэміі, старшы навук. супрацоўнік Ін-та эканомікі АН БССР. З 1968 у Брэсцкім інжынерна-будаўнічым ін-це. Даследуе эканам. гісторыю Беларусі, гісторыю прам-сці ў дакастр. перыяд. Аўтар прац «Развіццё прамысловасці ў Беларусі (1795—1861 гг.)» (1966), «Прамысловасць Беларусі. 1860—1900» (1978), «Прамысловасць дарэвалюцыйнай Беларусі» (1988).

А. К. Болбас.

**БО́ЛДЗІН** Іван Васілевіч [3(15).8.1892, в. Высоцкая Інсарскага р-на, Мардовія — 28.3.1965], генерал-палкоўнік (1944). У арміі з 1914, у Чырв. Арміі з 1919, удзельнік 1-й сусв. і грамадз. войнаў. Скончыў курсы «Выстрал» (1923), Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1936). Удзельнік далучэння Зах. Беларусі да БССР у 1939. З 1940 нам. камандуючага войскамі Зах. асобай ваен. акругі. У пач. Вял. Айч. вайны камандаваў аператыўнай групай войск Зах. фронту, у ліст. 1941 — лют. 1945 — 50-й арміяй, якая ўдзельнічала ў баях пад Масквой, на Курскай дузе, вызваленні Беларусі (Чавусы, Магілёў, Гродна; ліквідацыя варожай групоўкі ў мінскім «катле»), Польшчы, баях ва Усх. Прусіі. З крас. 1945 нам. камандуючага 3-м Укр. фронтам. Пасля вайны на камандных пасадах у Сав. Арміі. Аўтар успамінаў «Старонкі жыцця» (1961). Яго імем названы вуліцы ў гарадах Быхаў, Гродна, Клімавічы, Магілёў, Слаўгарад, Чавусы, Чэрыкаў, г. п. Хоцімск. Ганаровы грамадзянін Гродна.

І. В. Болдзін.

**БОЛІНА,** маёнтак 15 — пач. 20 ст. Знаходзіўся на беразе р. Больнік паміж вёскамі Кастрыца Лепельскага і Дзярэўня Чашніцкага р-наў, на Пд ад аўтадарогі Лепель — Орша. Вядомы з пач. 1440-х гадоў як сяло Лукомскага княства. Пасля смерці княгіні Марыны (Лукомскай?) Б. падаравана вял. кн. Казімірам у часовае валоданне («да волі гаспадарскай») пану Станку Саковічу. Адначасова ён атрымаў некалькі сем'яў сялян-даннікаў з в. Свяда (у 1973 злілася з в. Слабада Лепельскага р-на), пазней — інш. сялянскія гаспадаркі ў Лукомскім княстве, у т. л. і сям'ю Андрэйкі Сядневіча (відаць, заснавальніка в. Слядневічы Лепельскага р-на). У 1465 усе гэтыя уладанні перададзены братам Саковіча. Пры Саковічах ці крыху пазней у Б. заснаваны маёнтак, далейшы лёс і адм. прыналежнасць якога прасочваюцца дрэнна. У 1567 гэты маёнтак названы ў складзе Полацкага пав. (не выключана, што разам з усёй тэр. б. Лукомскага княства ён быў уключаны ў 1566 у Аршанскі пав.). Пазнейшыя гіст. крыніцы адносяць Б. як да Полацкага, так і да Аршанскага паветаў. Адна частка Б. зноў перайшла да князёў Лукомскіх, бо ў 1565 ім валодала ўдава кн. А. І. Лукомскага-Шчыдуцкага з сынамі Багданам і Балтазарам, дочкамі Ганнай, жонкай Конрада Жабы, і Аленай, жонкай Якуба П'яноўскага. Другая частка маёнтка належала інш. асобам (у 1567 ім валодалі Станіслаў Гамшэй і Вацлаў Свідэрскі). Пазней гаспадарамі Б. і Слядневічаў былі нашчадкі А. І. Лукомскага-Шчыдуцкага: Фрыдрых Багданавіч (1611), сыны Мікалая Багданавіча Ян Казімір, Самуэль і Базыль (1-я пал. 17 ст.), зяць Алены П'яноўскай кн. Міхаіл Друцкі-Саколінскі з сынам Багданам (2-я пал. 17 ст.), а таксама Жабы (1722). У 1790 частка маёнтка (11 двароў) належала Вышымірскаму, астатняя частка (в. Замошша і інш.; 121 двор) — Юзафу Якавецкаму. У 1793 маёнтак далучаны да Расійскай імперыі, увайшоў у Сенненскі пав. Магілёўскай губ. Апошняй уладальніцай Б. ў пач. 20 ст. была памешчыца К. Дзевялтоўская-Гінтаўт. Пасля 1917 маёнтак спыніў існаванне. Рэшткі Б. знішчаны ў 1970-я гады ў час меліярацыйных работ. *В. Л. Насевіч.*

**«БОЛЬШЕВИ́СТСКАЯ ПРА́ВДА»,** газета, орган камандавання і парт. арганізацыі партыз. брыгады «Дзядзька Коля» Мінскай вобл. ў Вял. Айч. вайну. Перыядычнасць у сярэднім 1 раз на тыдзень. Вядома 36 нумароў за ліст. 1942—29.5.1944. Выдавалася ў раёне воз. Палік (Барысаўскі р-н) на рус. мове. Паведамляла пра падзеі на франтах, аперацыі партызан, іх баявую падрыхтоўку, маса-паліт. работу; дапамогу партызанам, геаічныя ўчынкі нар. мсціўцаў. Рэдактар Д. Ф. Капыткоў.

**БО́НА СФО́РЦА** [Bona Sforza; 2.2.1494, Віджэвано (Італія) — 1557], каралева польская і вял. княгіня літоўская, 2-я жонка караля Польшчы і вял. князя ВКЛ *Жыгімонта І* Старога (з 1518), маці *Жыгімонта ІІ* Аўгуста. Імкнулася павялічыць паліт. ўладу караля і вял. князя шляхам умацавання яе эканам. асновы. Значна павялічыла зямельную ўласнасць дынастыі Ягелонаў, абараняла дзярж. землі ад незаконнага прысваення іх феадаламі, асабліва магнатамі, у выніку пажалаванняў, падараванняў і купляў сканцэнтравала ў сваіх руках толькі на Беларусі воласці: Аболецкую Аршанскага пав., Езярышчанскую Віцебскага, Клецкую Навагародскага, Кобрынскую, Шарашоўскую Берасцейскага, Пінскую Пінскага, Рагачоўскую Рэчыцкага пав. і інш. Выкупляла дзярж. уладанні, якія былі ў закладзе ў магнатаў (Гародзенскае староства). У судовым парадку вярнула ў склад гаспадарскіх (велікакняжацкіх) уладанняў многія захопленыя феадаламі дзярж. землі. Каб павялічыць свае даходы, у некаторых

Бона Сфорца.

маёнтках (напрыклад, Клецкім і Пінскім староствах) у 1522—55 рэзарганізавала сістэму эксплуатацыі сялянства на аснове ўвядзення новых форм землекарыстання і абкладання сялян павіннасцямі. Садзейнічала асваенню сялянамі лясоў і ператварэнню іх у с.-г. ўгоддзі, узнікненню некаторых населеных пунктаў на Беларусі Прынцыпы Б. С. па павелічэнні даходаў са сваіх маенткаў шляхам узмацнення эксплуатацыі сялянства выкарыстаны пры ажыццяўленні агр. рэформы *(валочнай памеры)* у ВКЛ. Садзейнічала перасяленню польскіх шляхціцаў у ВКЛ, умацоўвала пазіцыі каталіцкага касцела. У 1556 выехала на радзіму ў Італію, вывезла з сабой шмат каштоўнасцей Яе маенткі перайшлі да Жыгімонта II Аўгуста.

*Літ* Пичета В И Белоруссия и Литва XV—XVI вв (Исслед по истории соц.-экон., полит и культ развития) М, 1961 С 21—42, Pociecha W Krolowa Bona (1494—1557) Czasy i ludzie Odrodzenia T 4 Poznan, 1958 *М Ф Спірыдонаў*

**БО́НДА,** 1) беларускі нар. звычай частавання блізкіх і аднавяскоўцаў свежынай, а таксама хлебам, садавінай, агародніннай новага ўраджаю Дзяліліся мясам свойскай і забітай у час палявання дзікай жывелы, рыбай, медам (у час яго выбірання з вулляў). Звычай сведчыць пра існаванне ў старажытнасці калектыўнай (абшчыннай) гаспадаркі і грамадскай уласнасці. У наш час страціў сваю назву, але захоўваецца як нар традыцыя калектыўных узаемаадносін. 2) Старадаўняя назва пасагу, запасу грошай, адзення. 3) Круглая пшанічная булка

*М Ф Піліпенка*

**БО́НДАР** Таіса Мікалаеўна (н. 20.2.1945, г. п. Рудзенск Пухавіцкага р-на), беларуская паэтэса, празаік Скончыла Мінскі пед. ін-т замежных моў (1967) Працавала ў г Фалешты (Малдова), з 1978 у газ. «Літаратура і мастацтва», з 1981 у час. «Беларусь». У кнігах паэзіі «Захапленне» (1974), «Акно ў восень» (1977), « І голас набыла душа» (1980), «Святочны снег» (1981), «Чырвоны месяц года» (1985), «Спадчынны боль» (1987), у паэме «Рагнеда» звяртаецца да гіст мінулага народа, пераасэнсоўваючы падзеі даўніх часоў. Гісторыя і сучаснасць у яе творах суіснуюць побач, пераплятаюцца, узаемадапаўняюцца, высвечваюць лесы асобных людзей і ўсяго народа У кнігах прозы «Сінія яблыкі» (1984), «Час, калі нас любілі» (1988), «Паветраны замак на дваіх» (1990) — роздум над складанымі чалавечымі ўзаемаадносінамі. У рамане «Спакуса» (1989) побач з сучаснымі праблемамі «ажываюць» драматычныя падзеі 12 ст і вобраз Ефрасінні Полацкай *Л М Гарэлік*

**БО́НДАРАЎ** Аляксандр Мітрафанавіч (н 30.5.1923, с Нікалаеўка Похвіснеўскага р-на Самарскай вобл.), Герой Сав. Саюза (1944) Беларус Скончыў Куйбышаўскае ваен пях. вучылішча (1942) У Вял. Айч. вайну з 1941 на Калінінскім, Варонежскім, 1-м і 4-м Укр франтах, удзельнік вызвалення Белграда, Кіева, Прагі Вызначыўся 4—5.11.1943 пры фарсіраванні Дняпра каля Кіева. Узвод аўтаматчыкаў на чале з лейтэнантам Б. авалодаў востравам, захапіў плацдарм на правым беразе і адбіваў контратакі ворага да падыходу асн. сіл палка. У баях за Кіеў разам з байцамі ўзвода знішчыў каля роты гітлераўцаў, узяў у палон некалькі ням. афіцэраў Пасля вайны скончыў курсы ўдасканалення афіцэрскага саставу (1947), Куйбышаўскі пед. інстытут (1954). Да 1953 у Сав. Арміі, потым на пед рабоце.

**БО́НДАРАЎ** Андрэй Лявонцьевіч (20.8.1901, хутар Бондараў Новааскольскага р-на Белгародскай вобл.— 23.9. 1961), генерал-лейтэнант (1943), Герой Сав Саюза (1943). У Чырв. Арміі з 1921. Скончыў Кіеўскую аб'яднаную ваен. школу (1927), курсы ўдасканалення каманднага саставу (1941), паскораны курс Ваен. акадэміі Генштаба (1942). Удзельнік грамадз., сав.-фінляндскай 1939—40 войнаў. У Вял. Айч. вайну з 1941 на Ленінградскім, Цэнтр, 1-м і 4-м Укр франтах камандзір дывізіі, камандуючы арміяй, камандзір аператыўнай групы, 17-га гв. стралк. корпуса У ноч на 22.9.1943 часці корпуса пад агнем праціўніка на падручных сродках фарсіравалі Дняпро каля в Верхнія Жары Камарынскага р-на, захапілі плацдарм і адбілі некалькі контратак праціўніка; развіваючы наступленне, 23.9.1943 выйшлі да Прыпяці і фарсіравалі яе. Пасля вайны да 1955 у Сав Арміі, потым на гасп. рабоце. Яго імем названа вуліца ў г. Новы Аскол.

Аўтограф каралевы **Боны Сфорцы.**

Пячатка каралевы **Боны Сфорцы.**

**БО́НДАРСТВА,** рамяство, выраб драўлянага посуду з клёпак (гл. *Бандарныя вырабы*). Асн. формы посуду і тэхналогія іх вырабу вядомы з глыбокай старажытнасці, пра што сведчаць знаходкі бандарак (клепак), донцаў і інструментаў з раскопак у Брэсце, Віцебску, Мінску, Полацку. У ВКЛ бондары ўтваралі асобныя двары (службы) і пасяленні Працавалі яны пры замках, манастырах, дзярж. і панскіх маентках, у гарадах стваралі свае цэхі. У сельскай мясцовасці Б было часцей дапаможным заняткам. Бондары выраблялі таксама с.-г. інвентар, валодалі навыкамі сталярнай і цяслярнай справы. У сярэдневяковых пісьмовых крыніцах упамінаюцца службы клепачоў, якія выраблялі клепкі. Вучні майстроў-бондараў перыядычна хадзілі па весках з абручамі і інструментам для рамонту бочак і кадак (замянялі пашкоджаныя донцы, клепкі), выраблялі прост‌ы бандарны і выдзеўбаны посуд. Для вырабу посуду клепкі апрацоўвалі на варштаце з дапамогай струга, гэбля і гэбліка. Для надання клепцы ўвагнутага профілю выкарыстоўвалі скоблі і шархебель (гэблік з паўкруглым лязом). Пры вырабе акруглых бандарных клепак бакавы авал размячалі цыркулем і апрацоўвалі на спец. варштаце з адтулінай-шаблонам для клепкі Абручы рабілі з дапамогай струга і нажа, гнулі на спец калодзе — ібале ці бабе. Донцы размячалі цыркулем. Уторны паз для мацавання днішча выпілоўвалі уторам. Найб. стараж. спосаб, які меў мноства канструкцыйных варыянтаў, сцягванне бочак абручамі рознай велічыні з дапамогай нацягуша і чакухі; пазней выкарыстоўвалі вяроўкі ці ланцугі (па тыпу лябедкі), кліны і лісічкі (драўляныя зацiскачкі) Пры вырабе біклаг, барылак, ведзер выкарыстоўвалі жалезныя абручы, ручкі, вушкі часцей у горадзе. Важным было выкарыстанне пэўнай драўніны з улікам пароды дрэва, яго стану вільготнасці, умоў росту, сезону нарыхтоўкі Апрача трываласці і даўгавечнасці пасудзін улічвалася і здольнасць драўніны надаваць прадуктам спецыфічны смак і пах, садзейнічаць працэсам квашання, браджэння і кансервацыі. З дубу рабілі бочкі і кадкі пад квас, сок, грыбы, гародніну, ведры для студні, біклагі, барылкі, кубельцы і дзежкі, у дзежках дубовая клепка нярэдка чаргавалася з хваевай ці яловай. З хвоі найчасцей рабілі цэбры, балеі, жлукты, часам — бочкі і кадзі. Пры вырабе даенак, боек, ведзер аддавалі перавагу елцы, драўніна якой больш цвердая і менш успрымальная да вільгаці. Для мер ёмістасці, пасудзін пад збожжа, кублаў для адзення выкарыстоўвалі асіну і вольху З асіны рабілі бочкі пад капусту. Абручы выраблялі з ляшчыны і дубу, радзей з елкі. Функцыянальная мэтазгоднасць і канструкцыйны рацыяналізм, лаканізм ліній і форм, сціпласць аздаблення — адметныя рысы, якія вызначаюць жыццевую сілу нар рамяства Параўнанне

з археал матэрыялам сведчыць пра трываласць і пераймальнасць вытв традыцый Б Інтэнсіўнасць і маштабы развіцця Б. ў многім залежалі ад эканам становішча сельскай гаспадаркі, яе спецыялізацыі, гандл сувязей, наяўнасці і даступнасці лясной сыравіны У 19 — пач 20 ст вылучаліся асобныя раёны, дзе Б. развівалася найб інтэнсіўна і як саматужны промысел было важнай падмогай сял гаспадарцы (Барысаўскі, Горацкі, Клімавіцкі, Сенненскі пав ) Сваю прадукцыю бондары збывалі на месцы, вывозілі на бліжэйшыя таргі і кірмашы, з Пд Беларусі — у стэпавыя раёны Украіны ў абмен на хлеб і соль Мноства бандарнай клёпкі па Немане, Бугу, Зах Дзвіне вывозілі за мяжу, тутэйшая дубовая клёпка, вядомая пад назвай «мемельская», лічылася адной з лепшых у Еўропе і яе куплялі прамыслоўцы Германіі, Францыі і інш. краін. З 1920 х гадоў у вытв-сці бандарнага посуду істотную ролю набылі саматужна-прамысл арцелі У наш час патрэбы насельніцтва і прадпрыемстваў у бандарных вырабах задавальняе пераважна прамысл бандарная вытворчасць

*Літ* Титов В С Народные деревообрабатывающие промыслы Белоруссии (1917—1941 гг ) Мн, 1976 *В С Цітоў*

**БОНЧ-АСМАЛО́ЎСКАЯ** (Вахоўская) Варвара Іванаўна (1855, Херсонская губ — 1929), рэвалюцыянерка-народніца, жонка А В *Бонч-Асмалоўскага* З дваран У час вучобы ў Камянец-Падольскай гімназіі далучылася да рэв ідэй У 1872 вучылася ў Цюрыху, дзе ўступіла ў бакунінскі гурток М П. Сажына, наведвала сходы гуртка П Л. Лаўрова У 1873 вярнулася ў Расію, вяла рэв. прапаганду. Арыштавана ў пач 1874, затым у пач 1875 Пасля амаль 3-гадовага турэмнага зняволення па «працэсу 193-х» (І М Мышкін, С П. Кавалік і інш ) прыгаворана да ссылкі Па хадайніцтве бацькі перададзена яму на парукі Уваходзіла ў рэв. народніцкую арг-цыю «Чорны перадзел», па рэкамендацыі якой, каб вызваліцца з-пад нагляду бацькі, у 1880 узяла фіктыўны (напачатку) шлюб з Бонч-Асмалоўскім і пасялілася ў маентку Блонь Ігуменскага пав (цяпер Пухавіцкі р-н) Падтрымлівала сувязь з кіраўніцтвам «Народнай волі», аказвала яму матэрыяльную дапамогу У пач 1882 выехала ў Адэсу, вяла падп работу пад кіраўніцтвам В М Фігнер У сак 1882 арыштавана, з восені 1882 жыла ў Блоні пад публічным наглядам паліцыі З сярэдзіны 1880-х гадоў разам з мужам арганізавала ў Блоні цэнтр рэв прапаганды, дапамагала былым палітвязням, стварыла б-ку нелегальнай л-ры, далучала да рэв працы сваіх дзяцей Ірыну, Івана, Радзівона Удзельнічала ў стварэнні і дзейнасці *Блонскай сялянскай арганізацыі* У крас 1908 арыштавана, у лют 1910 разам з мужам аддадзена пад суд, у сак 1911 прыгаворана да 8-месячнага зняволення у крэпасці Летам 1917 сялянамі в. Блонь выбрана ў валасное земства. Апошні год жыцця правяла ў Доме ветэранаў рэвалюцыі ў Маскве, дзе і памерла Аўтар успамінаў.

*Тв* Успаміны рэвалюцыянеркі//Полымя 1925 № 2, Жизнь революционерки М , 1928

*Літ* Бонч-Осмоловский А Памяти В И Бонч-Осмоловской//Каторга и ссылка 1930 № 2, Савіцкая Л Група Бонч-Асмалоўскага//Полымя 1967 № 5, Клейн Б Дело Бонч-Осмоловских// Клейн Б В годину испытаний Ист -лит очерки Мн, 1986 *Б С Клейн*

А М Бондараў.

А Л Бондараў.

**БОНЧ-АСМАЛОЎСКАЯ** Ірына Анатолеўна (21 9 1882, маентак Блонь Ігуменскага пав , цяпер Пухавіцкі р-н — 30.12 1941), удзельніца рэв. руху ў Расіі і на Беларусі, урач, дачка А В *Бонч-Асмалоўскага* і В І *Бонч-Асмалоўскай* (Вахоўскай) У час вучобы ў Пецярбургскім жаночым медыцынскім ін-це ўваходзіла ў с -д гурткі Удзельнічала ў маніфестацыі каля Казанскага сабора (1901), была паранена, непрацяглы час знаходзілася пад арыштам У 1902 суправаджала бацьку і брата Івана ў ссылку ў Усць-Каменагорск, пэўны час добраахвотна знаходзілася там У 1904 выехала за мяжу для атрымання адукацыі У 1905 вярнулася ў Блонь, знаходзілася пад тайным наглядам паліцыі Займалася агітацыяй сярод сялян У снеж 1905 удзельнічала ў рэв выступленнях на Прэсні ў Маскве З 1908 працягвала вучобу ў жаночым медыцынскім ін-це, які скончыла ў 1915 У 1-ю сусв вайну на фронце, урач-хірург. У 1917—22 хірург 2-й гар бальніцы ў Мінску З 1922 на кафедрах шпітальнай хірургіі БДУ, Мінскага медыцынскага ін-та Выступіла з дакладам на 1-м Усебел. з'ездзе хірургаў, гінеколагаў і акушэраў (1929) Аўтар навук прац па хірургіі З 1933 урач-хірург у Ленінградзе

*Тв* . Хірургічныя захворванні на дражджавых заводах г Менску // Рабочыя-дражджавікі гораду Менску сацыяльна-гігіен характарыстыка М , 1930

*Літ* Вахоўская В Успаміны рэвалюцыянеркі // Полымя 1925 № 2 С 155, 157—158, Клейн Б Дело Бонч-Осмоловских // Клейн Б В годину испытаний Ист -лит очерки Мн , 1986 С 23—25, 31 37, Стельмашонок И М Очерки развития хирургии в Белоруссии Мн 1973 С 87, 137 *Ф І Ігнатовіч*

**БОНЧ-АСМАЛО́ЎСКІ** Анатоль Восіпавіч (10 7.1857, Віцебск — 23 9 1930), рэвалюцыянер-народнік З дваран Скончыўшы Маскоўскі ліцэй, у 1875 паступіў у Ін-т інжынераў шляхоў зносін, у 1876 перайшоў на юрыд, затым на прыродазнаўчы ф т Пецярбургскага ун-та Пазнаеміўшыся з Р П *Ісаевым* і І. І. Кабліцам, пачаў вывучаць народніцкую тэорыю, распаўсюджваў сярод студэнтаў нелегальныя выданні Як прыхільнік рэв арг-цыі народнікаў *«Зямля і воля»* падтрымліваў кантакты з А Дз Міхайлавым, М А Марозавым, С Л Пяроўскай З 1878 арганізоўваў студэнцкія зямляцтвы, якія лічыў зручнай формай рэв прапаганды, быў адным з кіраўнікоў «Саюза зямляцтваў Пецярбурга» У 1879 увайшоў у гурток «Маладыя землявольцы», які пасля расколу «Зямлі і волі» (жн 1879) далучыўся да арг-цыі *«Чорны перадзел»* У ліст 1879 за ўдзел у студэнцкіх хваляваннях Б -А арыштаваны і высланы ў бацькоўскі маентак Блонь Ігуменскага пав. (цяпер Пухавіцкі р-н) з пазбаўленнем права вучыцца ў ВНУ У 1880 садзейнічаў арганізацыі друкарні «Чорнага перадзелу» ў Мінску (пачала працаваць у 1881) У крас 1882 арыштаваны, на працягу 5 месяцаў адбываў зняволенне ў мінскай турме Стаўшы пасля смерці бацькі ўласнікам маентка Блонь, частку даходаў перадаваў на рэв мэты Разам з жонкай В І. *Бонч-Асмалоўскай* (Вахоўскай) пры ўдзеле групы нар настаўнікаў (у т л А Я. *Багдановіча*) арганізаваў у Блоні сял гурток самаадукацыі, спрабаваў стварыць «сацыялістычную арцель», распаўсюджваў нелегальную л-ру Арыштаваны ў крас 1886 у Канатопе Чарнігаўскай губ, дзе знаходзіўся па справах нелегальнай друкарні З сярэдзіны 1880-х гадоў дзякуючы Б -А і яго жонцы Блонь стала апорным пунктам рэвалюцыянераў розных кірункаў народнікаў, сацыял-дэмакратаў, сацыялістаў-рэвалюцыянераў (С П *Кавалік*, К К *Брэш-*

*ка-Брашкоўская*, Р. А. *Гершуні*, І. А. *Гурвіч* і інш.). Б.-А.— адзін з арганізатараў і кіраўнікоў *Рабочай партыі палітычнага вызвалення Расіі* (канец 1890-х гадоў), *Блонскай сялянскай арганізацыі*. У 1901 арыштаваны з сынам і інш., сасланы ва Усх. Сібір. У 1904 вярнуўся па амністыі, увайшоў у склад абл. камітэта (у Смаленску) Паўн.-Зах. арг-цыі *сацыялістаў-рэвалюцыянераў (гл. ў арт. Эсэры)*, у 1905 кааптаваны ў ЦК партыі эсэраў. Удзельнік рэвалюцыі 1905—07: быў дэлегатам Устаноўчага з'езда (ліп.—жн. 1905) і Дэлегацкай нарады (ліст. 1905) Усерасійскага сял. саюза, 1-га з'езда партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў (снеж. 1905 — студз. 1906), друкаваў і распаўсюджваў нелегальную л-ру, у час Снежаньскага ўзбр. паўстання 1905 змагаўся на барыкадах Прэсні ў Маскве. У крас. 1908 арыштаваны, у лют. 1910 аддадзены пад суд. У студз. 1911 апраўданы, але ў 1912 зноў арыштаваны і прыгавораны да 8 месяцаў зняволення ў крэпасці. У час 1-й сусв. вайны ў эвакуацыі, працаваў у арг-цыях дапамогі бежанцам. У 1917 у Маскве, гласны гар. думы. Пасля Кастр. рэвалюцыі 1917 выбраны чл. выканкома Уладзімірскага губ. Савета сял. дэпутатаў. Дэлегат Усебеларускага з'езда (1917). З 1918 у Мінску, актыўна ўдзельнічаў у кааператыўным руху. У час акупацыі Беларусі польскімі войскамі знаходзіўся на нелегальным становішчы. З 1926 у Маскве, член Усесаюзнага т-ва паліткатаржан і ссыльнапасяленцаў. Аўтар успамінаў.

*Тв.:* Эпоха 1905 г. // Полымя. 1925. № 6—7; Ліберальна-апазіцыйны рух на Беларусі // Беларусь: Нарысы гісторыі, эканомікі, культ. і рэв. руху. Мн., 1924. С. 169—176; Памяти В. И. Бонч-Осмоловской // Каторга и ссылка. 1930. № 2.

*Літ.:* Попов И. А. О. Бонч-Осмоловский // Каторга и ссылка. 1931. № 4, Савіцкая Л. Група Бонч-Асмалоўскага // Полымя. 1967 № 5; Клейн Б. Дело Бонч-Осмоловских // Клейн Б. В годину испытаний: Ист.-лит. очерки. Мн., 1986.
*Б. С. Клейн.*

**БОНЧ-АСМАЛОЎСКІ** Глеб Анатолевіч [22.10(3.11).1890, маёнтак Блонь Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер в. Блонь *Пухавіцкага р-на* — *1.11.1943*], *антраполаг і археолаг. Д-р гіст. навук.* Сын А. В. *Бонч-Асмалоўскага* і В. І. *Бонч-Асмалоўскай.* Скончыў Мінскае камерцыйнае вучылішча, Петраградскі ун-т (1923). У 1-ю сусв. вайну на фронце. У 1924—30 асістэнт кафедры антрапалогіі Ленінградскага ун-та. З 1930 навук. супрацоўнік Геалагічнага ін-та АН СССР і Дзярж. акадэміі гісторыі матэрыяльнай культуры. У 1926—27 і 1934 разам з К. М. Палікарповічам займаўся пошукамі палеалітычных паселішчаў на Гомельшчыне і Смаленшчыне (*Бердыж,* Гамкава, Каменная Гара). Удзельнік этнагр. і археал. экспедыцый на Каўказе і ў Крыме. У час раскопак у пячоры Кіік-Каба (Крым, 1923—24) упершыню на тэр. СССР выявіў рэшткі выкапнёвага чалавека — неандэртальца, прылады працы ранняга палеаліту. Знойдзеныя ім крамянёвыя скульптурныя выявы чалавека маюць узрост больш за 50 тыс. гадоў і з'яўляюцца першымі ў гісторыі чалавецтва прадметамі мастацтва. Выказаў ідэю пра пераход продкаў чалавека ад дрэвавага да наземнага спосабу жыцця задоўга да пертварэння малпы ў чалавека. Аўтар каля 40 навук. прац, якія маюць вял. значэнне для доказу пераемнай сувязі культуры і фізічнага тыпу чалавека ранняга палеаліту. У 1934 па лжываму даносу арыштаваны, асуджаны да 3 гадоў лагераў. Адбываў пакаранне ў Варкуце. Пасля вяртання жыў пад Ленінградам. У 1942 рэабілітаваны. Эвакуіраваны ў Казань, дзе і памёр.

*Тв.:* Итоги изучения крымского палеолита // Труды II Междунар. конф. Ассоциации по изучению четвертичного периода Европы. Л.; М., Новосибирск. 1934. Вып. 5; Грот Киик-Коба. М.; Л., 1940; Кисть ископаемого человека из грота Киик-Коба. М.; Л., 1941; Скелет стопы и голени ископаемого человека из грота Киик-Коба. М.; Л., 1954.

**БОНЧ-АСМАЛОЎСКІ** Іван Анатолевіч (20.5.1881, маёнтак Блонь Ігуменскага пав., цяпер Пухавіцкі р-н — 16.9.1969), удзельнік рэв. руху. Старэйшы сын А. В. *Бонч-Асмалоўскага* і В. І. *Бонч-Асмалоўскай* (Вахоўскай). Пад уплывам бацькоў з юнацтва пачаў весці рэв. прапаганду сярод сялян. Будучы вучнем апошняга класа гімназіі, у студз. 1902 за арганізацыю ў Блоні нелегальнага сял. гуртка разам з бацькам высланы ў Усць-Каменагорск. Пасля вяртання па амністыі з ссылкі (1904) выехаў у Цюрых (Швейцарыя) для прадаўжэння вучобы. Удзельнічаў у перавозцы ў Расію нелегальнай літаратуры. Восенню 1905 вярнуўся на радзіму, удзельнічаў у арганізацыі Усерасійскага сял. саюза. У 1906 адзін з ініцыятараў аб'яднання сял. дэпутатаў Дзярж. думы ў «Трудавую групу» (гл. *«Трудавікі»*), у 1-й і 2-й думе сакратар гэтай фракцыі. Пра яе дзейнасць выдаў кн. «Работы першай Дзяржаўнай думы» (1906), якая адразу ж была канфіскавана ўладамі. Пасля здачы ў 1907 экзаменаў на атэстат сталасці паступіў на юрыд. ф-т Маскоўскага ун-та, але быў арыштаваны. У сак. 1912 за рэв. дзейнасць прыгавораны Віленскай судовай палатай да зняволення ў крэпасці на 6 месяцаў. Пасля Кастр. рэвалюцыі працаваў служачым у сав. установах Мінска і Масквы. *Б. С. Клейн.*

**БОНЧ-АСМАЛОЎСКІ** Радзівон Анатолевіч [1884, маёнтак Блонь Ігуменскага пав., цяпер Пухавіцкі р-н — 1938 (?)], беларускі эканаміст, удзельнік рэв. руху. Сын А. В. *Бонч-Асмалоўскага* і В. І. *Бонч-Асмалоўскай* (Вахоўскай). У 1904—08 член Партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў, быў за гэта асуджаны на 3 гады зняволення ў крэпасці. За спробу ўцячы (вёў падкоп) быў закаваны ў кайданы. У 1912—15 вучыўся на Пецярбургскіх вышэйшых с.-г. курсах, затым працаваў у земскім харчовым камітэце. У 1916—17 у арміі. У 1917—21 працаваў у земскіх установах і харчовых камітэтах Ігумена і Мінска. З 1923 сакратар, загадчык с.-г. секцыі Дзяржплана БССР. У 1920-я гады выступаў у бел. часопісе «Советское строительство БССР» па праблемах аднаўлення нар. гаспадаркі, планавання сельскай гаспадаркі, зямельнай палітыкі, хутарызацыі, землеўпарадкавання. Распрацоўваў пытанні развіцця кааперацыі, саўгаснага будаўніцтва на Беларусі. У ліп. 1930 разам з Г. І. Гарэцкім, Л. Р. Опрам, А. А. Рыбаковым і інш. арыштаваны органамі ДПУ БССР. У 1931 беспадстаўна асуджаны за «пры

Сям'я Бонч-Асмалоўскіх і адвакаты напярэдадні чарговага судовага працэсу. Сядзяць (злева направа). Радзівон, Ірына, Глеб, Анатоль Восіпавіч, Варвара Іванаўна, Іван, М. Я. Ярмоліна (акрномка). Стаяць (злева направа): Скарацін, Грузенберг, К. А. Петрусевіч, У. Г. Вахоўскі (пляменнік Варвары Іванаўны), Вржосек. Мінск. 1911

належнасць да Беларускага філіяла Працоўнай сялянскай партыі». Да 1936 працаваў на будаўніцтве Беламорканала, у 1938 — эканаміст-планавік на хімфармзаводзе ў г. Чымкент. У чэрв. 1938 арыштаваны органамі НКУС Паўд.-Казахстанскай вобл. па абвінавачанні ва ўдзеле ў «шкодніцкай, контррэвалюцыйнай арганізацыі» і «шпіянажы на карысць японскай разведкі». 10.10.1938 рашэннем «тройкі» пры Упраўленні НКУС па Паўд.-Казахстанскай вобл. на падставе «ўласных прызнанняў» асуджаны да вышэйшай меры пакарання.

*Тв.* Земельная площадь БССР и ее распределение по угодиям, землевладению и формам землепользования // Сов. строительство 1926 № 10—11.

*Літ.* Микула Е Забытые имена Родион Боич-Осмоловский // Человек и экономика 1992 № 10 *Я. І Мікула.*

**БОНЧ-БРУЕ́ВІЧ** Міхаіл Дзмітрыевіч [24.2(8.3).1870, Масква — 3.8.1956], ваенны дзеяч, ген.-лейт. рус. арміі (1915), ген.-лейт. Чырвонай Арміі (1944), геадэзіст. Д-р ваен. і тэхн. навук. З сям'і каморніка, выхадца з дваран Магілеўскай губ. Брат У. Дз. *Бонч-Бруевіча* Скончыў Маскоўскі межавы ін-т (1891), Акадэмію Генштаба (1898), дзе з 1907 выкладаў тактыку. У 1-ю сусв. вайну ген.-кватэрмайстар 3-й арміі, з вер. 1914 у штабе Паўн.-Зах. фронту; нач. штаба 6-й арміі, арміі Паўн. фронту. У час Лют. рэвалюцыі 1917 нач. Пскоўскага гарнізона і чл. выканкома Пскоўскага Савета. У жн.— вер. 1917 галоўнакамандуючы войскамі Паўн. фронту, удзельнічаў у ліквідацыі карнілаўшчыны. З 27.9(10.10). 1917 нач. Магілеўскага гарнізона, чл. выканкома *Магілеўскага Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў.* 7(20).11.1917 СНК РСФСР прызначаны нач штаба Вярх галоўнакамандуючага. У лют. 1918 удзельнічаў у арганізацыі абароны Петраграда З сак. 1918 ваен. кіраўнік Вышэйшага ваен. савета, з чэрв. 1919 нач. ваенна-палявога штаба Рэўваенсавета Рэспублікі. Адзін са стваральнікаў (1919) і кіраўнік Вышэйшага геадэзічнага ўпраўлення ВСНГ, стваральнік (1925) дзярж. тэхн. бюро «Аэрафотаздымка». З 1928 у распараджэнні РВС СССР. Займаўся навук. і выкладчыцкай работай Аўтар прац па ваен. гісторыі і тактыцы. Пад яго агульнай рэдакцыяй у 1939—49 выдадзены 9-томны даведнік «Геадэзія»

*Тв.* Потеря нами Галиции в 1915 году Ч 1—2 М, 1921—26, Аэрофотосъемка М, 1931, Вся власть Советам [Воспоминания] М, 1964.

*Літ* Михаил Дмитриевич Бонч-Бруевич // Геодезия и картография 1956 № 7 *Э М Савіцкі*

**БОНЧ-БРУЕ́ВІЧ** Уладзімір Дзмітрыевіч [28.6(10.7).1873, Масква — 14.7.1955], прафесійны рэвалюцыянер, сав. дзярж. і парт. дзеяч, гісторык, этнограф, мастацтвазнавец. Д-р гіст. навук (1938). З сям'і каморніка, выхадца з дваран Магілеўскай губ. У 1884—89 студэнт Маскоўскага межавога ін-та; за арганізацыю выступлення студэнтаў выключаны і сасланы пад нагляд паліцыі ў Курск. Там скончыў каморніцкае вучылішча.

М. Дз Бонч-Бруевіч.

У Дз Бонч-Бруевіч.

Вярнуўшыся ў 1892 у Маскву, увайшоў у «Маскоўскі рабочы саюз». Наладзіў друкаванне на гектографе і распаўсюджанне нелегальнай л-ры. У 1895—96 удзельнічаў у арганізацыі майстэрні па вырабе мімеографаў для с.-д. арганізацый Расіі. Упершыню выдаў на рус. мове працу К. Маркса «Да крытыкі палітычнай эканоміі». З 1896 у эміграцыі, вучыўся ў Цюрыхскім ун-це, наладзіў сувязь з групай «Вызваленне працы», арганізаваў дастаўку ў Расію рэв. л-ры і друкарскіх станкоў. Пазнаёміўшыся з У. І. Леніным, супрацоўнічаў у «Искре», у 1903—05 загадчык экспедыцыі ЦК РСДРП, адзін са стваральнікаў Цэнтр. бібліятэкі і парт. архіва ў Жэневе, удзельнік падрыхтоўкі III з'езда РСДРП. Вярнуўшыся ў Пецярбург, актыўна ўдзельнічаў у рэвалюцыі 1905—07· стварыў некалькі выд-ваў, у т. л. «Уперад», якое з'яўлялася адным з канспіратыўных парт. цэнтраў, працаваў у бальшавіцкіх газетах. З 1908 загадваў бальшавіцкім выд-вам «Жыццё і веды». Пасля Лют. рэвалюцыі 1917 чл. выканкома Петраградскага Савета, рэдактар бальшавіцкай газ «Рабочий и солдат». У час Кастр. ўзбр. паўстання камендант раёна Смольны — Таўрычаскі палац, чл. Камітэта рэв. абароны Петраграда, старшыня Камітэта па барацьбе з контррэвалюцыяй і сабатажам. У 1917—21 кіраўнік спраў СНК РСФСР. З 1921 старшыня выд-ва «Жыццё і веды», супрацоўнічаў у выд-ве «Камуніст», РАСТА, адначасова стварыў і 9 гадоў кіраваў доследным саўгасам «Лясныя паляны». З 1933 дырэктар Дзярж. літ. музея, з 1945 — Музея гісторыі рэлігіі і атэізму АН СССР. Аўтар прац па гісторыі рэв. руху ў Расіі, гісторыі рэлігіі і атэізму, л-ры, этнаграфіі.

*Тв.* Избр. соч Т 1—3 М, 1959—63

*Літ* Владимир Дмитриевич Бонч-Бруевич М, 1958. *Э М Савіцкі*

**БО́НЫ** (лац. bonus добры), папяровыя ці металічныя знакі з плацежнай функцыяй. З'яўляліся часовымі заменнікамі дзярж. грашовых знакаў, недахоп якіх адчуваўся ў пэўнай мясцовасці. Маглі таксама выпускацца асобным прадпрымальнікам з мэтай атрымання дадатковага прыбытку, утрымання цвёрдых цэн на тавары першай неабходнасці ў межах прадпрыемства, установы, кааператыва ў выпадку зніжэння курса дзярж. грашовых знакаў з-за інфляцыі. На Беларусі вядомы з часоў *паўстання 1863—64.* Падзяляюцца на Б. абавязковага абарачэння (выпускалі дзярж. казначэйствы, муніцыпальныя органы ўлады, акупацыйныя ўлады на занятай тэр; мелі законную плацежную сілу на адпаведнай тэр.) і неабавязковага (прыватныя Б., выпушчаныя асобнымі прадпрыемствамі, арг-цыямі, установамі, кааператывамі, т-вамі, прыватнымі асобамі; мелі сілу ў падпарадкаваных эмітэнту межах). Пра гісторыю папяровых знакаў і Б. на Беларусі гл. ў арт. *Баністыка. У С Базан*

**БО́РАЎНА,** вёска ў Горскім сельсавеце Лепельскага р-на, у калгасе «Парыжская камуна». За 7 км на У ад Лепеля, 500 м ад воз. Бораўна, на аўтадарозе Лепель — Чашнікі. 74 двары, 185 жыхароў (1993).

Упершыню ўпамінаецца ў 1503, калі на гэта сяло разам з Лепелем (сучасная в. Стары Лепель) атрымаў пацвярджэнне віцебскі касцел. У 1541 вял. кн. ВКЛ і кароль Польшчы Жыгімонт І Стары перадаў уладанні віцебскага касцела ў Полацкай зямлі, у т. л. Б., віленскаму капітулу. Апошні ў 1586 прадаў гэтыя ўладанні, спустошаныя ў час Лівонскай вайны 1558—83, Льву Сапегу — уладальніку суседняга маёнтка Белае (сучасны г. Лепель). З гэтага часу Б. падзяляла лёс лепельскага маёнтка, у склад якога ўваходзіла да адмены прыгоннага права ў Расійскай імперыі (1861). Пазней Б.— вёска ў Забалоцкай вол. Лепельскага пав. Паводле перапісу 1897, мела 80 двароў, 290 жыхароў мужчынскага і 259 жаночага полу. З 1923 Б. ў Бачэйкаўскім пав. Віцебскай губ., з 1924 у Лепельскім р-не. 81 двор, 259 жыхароў (1970). У Б. пач. школа, Дом культуры, б-ка, магазін. Каля вёскі гарадзішча днепрадзвінскай (3—5 ст. н. э.) і банцараўскай (6—8 ст. н. э.) культур.

*Літ* Белоруссия в эпоху феодализма Сб документов и материалов Мн, 1959. Т 1

С. 132; Довгялло Д. И. Лепель, уездный гор. Витебской губ.: Хроника минувшей жизни. Витебск, 1905. *В. Л. Насевіч.*

**БОРЗАБАГА́ТЫ** Уладзіслаў Канстанцінавіч [23.4(5.5).1831, маёнтак Рутка Навагрудскага пав., цяпер Навагрудскі р-н — 28.3.1886], рэвалюцыянер-дэмакрат, удзельнік *паўстання 1863—64* на Беларусі. Са шляхецкай сям'і. У 1849 за ўдзел у *Братнім саюзе літоўскай моладзі* выключаны з Мінскай гімназіі без права паступлення ў інш. навуч. ўстановы. Пасля амністыі 1855 скончыў курс гімназіі і паступіў на медыцынскі ф-т Маскоўскага ун-та. У час вучобы далучыўся да канспіратыўнай суполкі «Огул», якая аб'ядноўвала студэнтаў з Польшчы, Беларусі і Літвы, увайшоў у склад ие кіраўніцтва. Вярнуўшыся на радзіму, працаваў урачом у Навагрудку. У 1863 паўстанцкі камісар Навагрудскага пав. Як перакананы дэмакрат і аднадумец К. Каліноўскага абараняў інтарэсы сялян, патрабаваў экспрапрыяцыі памешчыкаў. Пасля задушэння паўстання хаваўся, завочна прыгавораны да пакарання смерцю. У 1865 эмігрыраваў у Італію. З 1869 жыў у Парыжы, займаўся медыцынскай практыкай. Удзельнік франка-прускай вайны 1870—71. У час Парыжскай камуны прызначаны гал. медыкам шпіталя камунараў. Быў высланы на галеры, пазней вызвалены, але вымушаны пакінуць Францыю. З 1872 жыў у Кракаве. У 1874 вярнуўся на радзіму, сасланы ў Архангельск, затым у Кастрамскую губ., дзе працаваў земскім урачом. У 1884 атрымаў дазвол вярнуцца на Беларусь, працаваў урачом у мяст. Любяшова Пінскага пав. (цяпер Валынскай вобл., Украіна), дзе і памёр. У Рутцы ў гонар яго пастаўлены памятны знак, у Навагрудку імем Б. названа вуліца.

*Літ.:* Паўстанне ў Літве і Беларусі 1863—1864 гг. М., 1965 (Восстание 1863 г. Материалы и документы); [Borzobohata K.] Życiorys powstańca z 1863 r. Wilno, 1938 (пад крыптан.: K. B.); Грицкевич В. П. С факелом Гиппократа: Из истории белорус. медицины. Мн., 1987. *Г. В. Кісялёў, А. Г. Майсяёнак.*

**БО́РКАВІЦКІ РАЁН**, адм.-тэр. адзінка ў БССР у 1929—31. Утвораны 17.7.1924 як *Валынецкі раён*, 9.3.1929 перайменаваны ў Б. р. Да 26.7.1930 знаходзіўся ў складзе *Полацкай акругі*. Цэнтр — чыг. ст. Боркавічы. Пл. раёна 833 км², 558 населеных пунктаў з нас. 28 766 чал. (на 1.1.1925). Падзяляўся на 9 сельсаветаў: Боркавіцкі, Валынецкі, Галубаўскі, Дзёрнавіцкі, Замшанскі, Кушлікаўскі, Луначарскі, Прудзінкаўскі і Юзафоўскі. Б. р. скасаваны 8.7.1931. Замшанскі і Кушлікаўскі сельсаветы перададзены ў склад Полацкага р-на, астатнія 7 сельсаветаў — у склад Дрысенскага (з 1962 Верхнядзвінскага) р-на.

**БО́РТНАЕ ПРА́ВА**, сукупнасць норм *звычаёвага права*, якія рэгламентавалі і рэгулявалі функцыяніраванне *бортніцтва* на Беларусі. Б. п. грунтавалася на гістарычна выпрацаваным і ўвасобленым у звычаях абагульненым вопыце бортніцтва і падтрымлівалася непахісным аўтарытэтам грамадскай думкі, традыц. мерамі ўшчування і пакарання. Першапачаткова ў аснове звычаю ляжала табу — розныя забароны і абмежаванні. Успрымаліся яны як непадлеглы сумненню факт і выконваліся без абгрунтавання і абмеркавання, потым — як агульнапрыняты звычай. Усе віды парушэння Б. п. разглядаліся *копным судом*. Рашэнні капы (дэкрэты), у т. л. і смяротныя прыгаворы, якімі караліся зламысныя пчаладзёры, не падлягалі апеляцыі і былі канчатковымі, выконваліся адразу пасля абвяшчэння прыгавору. Без істотнай юрыд. трансфармацыі асн. нормы Б. п. беларусаў увайшлі поруч з афіц. прававымі актамі (агульназемскія, абл. і валасныя прывілеі, лісты), соймавымі пастановамі (ухвалы, уставы або канстытуцыі) у Статуты ВКЛ 1529, 1566, 1588. Пры вызначэнні меры пакарання прадугледжваўся дыферэнцыраваны падыход, улічваліся характар і цяжар правапарушэння («выхад з права»), памер прычыненай шкоды і наяўнасць намеру і інш. Напрыклад, пашкоджанне бортнага дрэва па неасцярожнасці каралася штрафам у «две копе грошей», а наўмыснае псаванне — у 5-разовым памеры. Злоўленых на месцы злачынства («з лицом поймано») прысуджалі да смерці («на горла»). Нормы Б. п. дзейнічалі і ў бел. войску. За знішчэнне борцей і крадзеж мёду вайск. ўставы, напрыклад, Менскага і Новагародскага соймаў пачатку 16 ст. прадугледжвалі павешанне («на шыбеніцу»). За захоўванне лязіва спаганяўся з вайскоўцаў 1 рубель штрафу (кошт 27 пудоў жыта). Гандаль крадзеным мёдам караўся хлостай (біццё дубцамі) і выгнаннем з войска; выкрытага ў 2-і раз пазбаўлялі жыцця. Увядзенне Статута ВКЛ не спыніла выкарыстанне норм вуснага Б. п. копнымі судамі, узаконенымі дзяржавай. Карысталася ім і афіц. судаводства, калі ў Статуце адсутнічаў неабходны артыкул для інкрымінавання злачынства. Шматвяковае існаванне нар. Б. п. падтрымлівалася прыхільнасцю насельніцтва да сваіх звычаяў і насцярожаным стаўленнем да дзярж. судаводства. На Беларусі Б. п. дзейнічала амаль да канца 18 ст. *С. Ф. Цярохін.*

У. К. Борзабагаты.

**БО́РТНІК**, пчаляр, які займаўся ўтрыманнем і доглядам баровак (лясных пчол) у борцях (дупло ў дрэве). Лакальныя назвы барцялаз, вотчын. Б. рабіў новыя борці, засяляў іх, чысціў, рыхтаваў прынаду для раёў, выбіраў мёд, ахоўваў пчол ад неспрыяльнага надвор'я, шкоднікаў. Умельства Б. перадавалася з пакалення ў пакаленне, у многіх сем'ях *бортніцтва* было спадчынным на працягу стагоддзяў.

**БО́РТНІЦТВА**, лясное пчалярства, пач. форма культ. пчалярства; адзін з найб. старадаўніх промыслаў на Беларусі. Заснавана на развядзенні і ўтрыманні лясных пчол у штучных дуплах — борцях. Развілося з дзікага пчалярства. Як самастойны від лясного промыслу прайшло 3 этапы развіцця: ахова і догляд дзікіх пчол у знойдзеных дуплах, свядомае ўтрыманне аселенага рою ў прыстасаваных пад борці натуральных дуплах, развядзенне і ўтрыманне рою ў спецыяльна зробленых борцях. Станаўленне Б. як промыслу адбылося ў 1 ст. н. э. Пераход да класічнай формы Б. адбыўся са з'яўленнем жал. прылад працы, калі стала магчыма выдзёўбваць борці ў сырых ствалах дрэў. Пазней рабілі вуллі-калоды, якія прывязвалі да дрэва або ставілі на дашчаныя палаці. Каб залучыць пчол, новыя борці ці вуллі з сярэдзіны акраплялі настоем духмяных траў або мёдам, у борці клалі воск ці пустыя соты. Для аховы борцей ад драпежнікаў (куніц, мядзведзяў) вакол дрэва рабілі спец. прыстасаванні накшталт бараны зубамі ўніз, у дрэва забівалі нажы, падвешвалі петлі, званочкі, бразготкі і інш.

Б. было пашырана на ўсёй тэр. Беларусі. Свайго росквіту яно дасягнула ў 10—12 ст. Яго ахоўвала звычаёвае, а пазней і «пісанае» права. Статут ВКЛ 1588, напрыклад, за крадзеж мёду з борцей прадугледжваў пакаранне ад штрафу да смяротнага прысуду. У сярэдн я вякі *бортнікі* на Беларусі часта аб'ядноўваліся ў бортныя цэхі — карпаратыўна-прафес. аб'яднанні з шырокімі правамі самакіравання (вядомы з 14 ст.). У гарадах і мястэчках у такія цэхі аб'ядноўваліся бортнікі з мяшчан і дробнай шляхты. Вытворчая дзейнасць і побыт цэхаў рэгламентаваліся статутам, зацверджаным гар. радай. Пры паступленні ў цэх бортнікі прымалі прысягу на адданасць, паслухмянства, захоўванне сакрэтаў і выкананне патрабаванняў бортнай юрысдыкцыі. Узначальвалі цэхі выбраныя на штогадовых агульных сходах бортны староста, падсудак і пісар; пазней у кіраўніцтва ўваходзілі 2 лаўнікі, а падсудка замяніў гаёвы (суддзя). Кожны цэх меў свой статут, пячатку, скарбонку, пратэсу (харугву) з выявамі патрона пчалярства Іаана Златавуста, пчол і бортных рэалій. У час ваен. дзеянняў бортнікі выступалі ў складзе апалчэння пад сваёй цэхавай пратэсай (пячатка і пратэса віленскага бортнага цэха зберагаюцца ў саборы Пятра і Паўла ў Вільнюсе).

На працягу стагоддзяў Б. задавальняла патрэбу ўсх. славян у мёдзе і інш. прадуктах жыццядзейнасці пчол (воск, прапаліс), якія былі гал. відамі экспарту.

У пач. 16 ст. толькі праз Полацкую мытную камору штогод вывозілі больш за 2 тыс. пудоў воску. У той час на Беларусі было больш за 1 млн. борцей, таварная прадукцыя якіх перавышала 0,5 млн. пудоў мёду штогод. Б. выпрацавала сваю тэхналогію ўтрымання і догляду пчол, адмысловую тэхніку вырабу борцей, бортных прылад і прыстасаванняў, посуду для захоўвання і транспарціроўкі мёду, сродкі аховы борцей. З канца 17 ст. ў выніку масавых высечак лясоў на продаж, пад ворыва, для прамысл. мэт пачаўся заняпад Б. У 1-й пал. 19 ст. яно страціла сваё ранейшае гасп. значэнне і саступіла месца калоднаму пчалярству. На Беларусі, асабліва на Палессі, Б. існавала да пач. 20 ст.

*Літ.:* Сержпутовский А. К. Бортничество в Белоруссии // Материалы по этнографии России. Спб., 1914. Т. 2; Гурков В. С., Терехин С. Ф. Бортничество в Белоруссии. Мн., 1980.

*У. С. Гуркоў, С. Ф. Цярохін.*

**«БОРЬБА́»**, штодзённая грамадска-паліт. і літ. газета. Выдавалася з 16(29).11.1917 да 1(14).1.1918 у Віцебску на рус. мове групай супрацоўнікаў газ. «Известия Витебского Совета солдатских и рабочих депутатов», закрытай загадам ВРК за антыбальшавіцкую дзейнасць. У рэдакцыйную калегію «Б.» як «органа групы сацыялістаў-рабочых і салдат» уваходзілі Г. Я. Аронсан, А. Л. Ліхніцкі, А. Д. Тарле, І. Б. Цёмкін, М. С. Цэтлін. Газета выступала за выратаванне рэвалюцыі, дэмакратыю, свабоду слова і друку, супраць гвалту бальшавікоў у адносінах да апазіц. партый. З 27.12.1917 «Б.» стала «органам сацыялістычнага блоку Віцебскага гарадскога самакіравання», у які ўвайшлі прадстаўнікі усіх паліт. партый горада: Партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў, РСДРП, Бунда, Партыі нар. сацыялістаў, Аб'яднанай яўрэйскай сацыяліст. партыі. Гал. задачай газета абвясціла «...барацьбу з анархіяй ва ўсіх яе відах і праявах і барацьбу за хутчэйшае адкрыццё і правільнае, г. зн. свабоднае і незалежнае функцыяніраванне Усенароднага і Поўнаўладнага Устаноўчага сходу» (27.12.1917). Гэты па сутнасці дэмакр. курс з'явіўся прычынай распачатых супраць «Б.» рэпрэсій (арт. «Як закрывалі газету «Борьба», 1.1.1918). 3.1.1918 выйшла пад назвай «Наша борьба», пасля чаго выданне яе было спынена бальшавіцкімі ўладамі Віцебска.

*М. Я. Сяменчык.*

**БО́ТАВА**, стаянкі каля в. Ботава Пінскага р-на, на паўн. беразе воз. Пагосцкае.

Стаянка-1 эпохі неаліту. За 2 км на Пн ад вёскі, на марэнным узгорку вышынёй 4—6 м (цяпер востраў на вадасховішчы). Даўжыня пляцоўкі да 100 м. Выявіў у 1962 і даследаваў у 1987 У. Ф. Ісаенка. Знойдзена больш за 400 апрацаваных крамянёў і крамянёвых прылад працы, фрагменты ляпных гаршкоў Датуецца 4—3-м тысячагоддзямі да н. э.

Стаянка-2 нёманскай і шнуравой

Да арт. **Бортніцтва**. Борць, выдзеўбаная ў ствале дрэва (уверсе), і прыстасаванне для аховы борці ад драпежнікаў.

керамікі культур. За 3 км на ПдЗ ад вёскі, на схіле марэннага ўзгорка вышынёй 2—4 м. Даўжыня пляцоўкі больш за 100 м. Адкрыў у 1962 і даследаваў у 1967—70, 1987 Ісаенка. Выяўлены рэшткі 3 агнішчаў, абкладзеных камянямі. Знойдзена 1250 апрацаваных крамянёў, больш за 190 прылад працы (трохвугольныя наканечнікі стрэл, сярпы, нажы, сякеры, скрабкі, скрэблы і інш.), фрагменты пасудзін з дамешкамі ў гліне жарствы і буйназярністага пяску, рэчы ранняга жал. веку.

*Літ.:* Исаенко В. Ф. Неолит Припятского Полесья. Мн., 1976. *У. Ф. Ісаенка.*

**БО́ЎКІ**, вёска ў Трылесінскім сельсавеце Быхаўскага р-на. За 34 км на У ад Быхава, 71 км ад Магілёва, 34 км ад чыг. ст. Быхаў. 322 ж., 148 двароў (1990). Вядома з 1568 як сяло ў Магілёўскай вол. Аршанскага пав. Віцебскага ваяв., дзярж. уласнасць ВКЛ, аддадзеная ў часовае валоданне шляхціцу. У 1604 было 13 двароў, у Асавецкім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі. З 1635 вядома царква. У 1742 было 11 двароў, драўляная царква, млын. У 1758 вёска ў Быхаўскім графстве, 108 жыхароў мужчынскага полу, 37 двароў. Паводле 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) уключана ў склад Расійскай імперыі. У 1780 у Быхаўскім пав., 301 ж., 41 двор. У 1868 уласнасць памешчыка, 112 жыхароў мужчынскага полу; у 1880 375 ж., 47 двароў. Частка вяскоўцаў займалася кравецкім і інш. рамёствамі і промысламі. У 1881 адкрыта школа. У 1897 у Даўгамошскай вол. Быхаўскага пав., 566 ж., 70 двароў; хлебазапасны магазін (адкрыты не пазней 1882), малочная крама, карчма. З 1909 падзялялася на Вялікія Б. (715 ж., 105 двароў) і Малыя Б. (55 ж., 9 двароў) той жа воласці. Сав. ўлада ўстаноўлена ў ліст. 1917. На базе дарэв. створана працоўная школа 1-й ступені (62 вучні ў 1925). У 1920 у Вялікіх Б. 718 ж., 108 гаспадарак, у Малых Б. 57 ж., 9 гаспадарак. У снеж. 1929 арганізаваны калгас «Чырвоны сцяг», які ў 1932 аб'ядноўваў 107 гаспадарак. У 1930-я гады Вялікія Б. і Малыя Б. зліліся ў адну вёску, у якой у 1940 было 896 ж., 298 двароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 да сак. 1944 акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У жн. 1943 гітлераўцы часткова спалілі вёску. 5—18.10.1943 непадалёку ад Б., у лесе, адбыліся цяжкія баі партызан супраць гітлераўскіх карнікаў. Апошніх падтрымлівалі танкі, артылерыя, авіяцыя (гл. *Боўкінская абарона 1943*). Вёска была поўнасцю спалена, загінулі 174 жыхары. У 2 брацкіх магілах на могілках пахаваны сав. воіны, партызаны і падпольшчыкі, якія загінулі ў баях супраць захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 324-й стралк. дывізіі 50-й арміі 2-га Бел. фронту, якія вялі тут баі ў сак. 1944. Пасля вайны вёска адбудавана. Цяпер у складзе калгаса «Перамога» (цэнтр — в. Смаліца). Размешчаны вытв. брыгада, жывёлагадоўчы комплекс; ёсць клуб, пач. школа, б-ка, магазін.

*В. М. Удальцоў.*

**БО́ЎКІНСКАЯ АБАРО́НА 1943**, баі партыз. палка «Трынаццаць», часткі сіл 15-га партыз. палка, 17-й партыз. брыгады, атрада «Перамога», падраздзяленняў інш. атрадаў супраць ням.-фаш. захопнікаў 5—18.10.1943 у лесе каля в. Боўкі Быхаўскага р-на. У пачатку кастр. гітлераўцы, каб ачысціць свае прыфрантавыя тылы, накіравалі каля 25 тыс. карнікаў супраць партызан і насельніцтва, якое знаходзілася пад аховай партызан у міжрэччы Проні і Дняпра. Партызаны занялі абарону ў Гарадзіцкім урочышчы за 4 км на Пд ад в. Боўкі.

11 кастр. праціўнік сіламі пях. дывізіі, некалькіх батальёнаў, з артыл. падраздзяленнямі і авіяэскадрылляй бамбардзіроўшчыкаў укліні́ўся ў абарону партызан, заняў вёскі Боўкі, Ветранка, Дабужа, Смаліца, Аляксандрава, Жалезінка і завяршыў акружэнне. Пасля цяжкіх баёў 14 кастр. полк «Трынаццаць» і большая частка насельніцтва адышлі ў глыб лесу і занялі абарону за 3,5 км ад в. Смаліца. Партызаны 15-га палка і падраздзяленні іншых атрадаў прарваліся ў зах. напрамку. У партызан скончыліся боепрыпасы, прадукты. 18 кастр. яны з боем прарвалі кальцо акружэння і выйшлі ў тыл праціўніка. За час блакады партыз. полк «Трынаццаць» правёў больш за 20 жорсткіх баёў, знішчыў больш за 100 карнікаў. Партызаны страцілі каля 300 чал. забітымі, параненымі і прапаўшымі без вестак. У гонар Б. а. каля в. Дабужа насыпаны курган Бессмяротнасці.

**БО́ХАН** Дарафей Дарафеевіч (1878, Мінск — ?), беларускі рускамоўны паэт, перакладчык, празаік і публіцыст. З сям'і вайскоўца. Вучыўся ў Полацкім кадэцкім корпусе і Канстанцінаўскім артыл. вучылішчы. Пасля службы ў арміі жыў у Мінску, супрацоўнічаў у газетах «Минский листок», «Северо-Западный край», «Голос провинции» (у 1907 адзін з яе рэдактараў), «Минские ведомости», «Северо-Западная жизнь». Пісаў пад псеўд. Серабранскі М., Дарафееў Д., Пяшкомбегаючы, Сліжань Д., Б-н, Б-н Д., Д. Б. Аўтар кн. «Мінскія паданні і легенды» (1901, на вокл. 1902), паэтычнага перакладу на рус. мову «Слова пра паход Ігаравы» (выд. пад назвай «Ігар, князь Северскі», 1897), гіст. паэм («Князь Усяславіч» і інш.), нарысаў і апавяданняў, шматлікіх вершаў, перакладаў з польскай л-ры, фальклорных запісаў, літ.-крытычных артыкулаў, рэцэнзій, артыкулаў на актуальныя паліт. тэмы. Аўтар рэцэнзій на кн. В. Ільіна (У. І. Леніна) «Развіццё капіталізму ў Расіі» (Минский листок. 1900. 6 студз.), якую ацэньваў з пазіцый ліберальнага народніцтва. У артыкулах па гісторыі бел. культуры, фальклору звычайна не ўзнімаўся вышэй узроўню газетчыка-кампілятара. У гады рэвалюцыі 1905—07 выступаў за культ.-нац. самавызначэнне беларусаў, літоўцаў, палякаў, актыўна змагаўся супраць чарнасоценнага друку, вялікадзярж. і шавіністычных груповак. У рэцэнзіі на 1-ы нумар газ. «Наша доля» вітаў нараджэнне бел. друку, высока цаніў змешчаныя ў ёй творы Цёткі, Я. Коласа (Голос провинции. 1906. 5 вер.). Паводле архіўных даных і сведчання газ. «Северо-Западный край», у 1904 бел. пісьменнік К. Кастравіцкі (К. Каганец) падаў міністру ўнутр. спраў просьбу дазволіць выдаваць у Мінску бел. газету «Палессе», рэдактарам якой меўся быць Б. Газета па невядомых прычынах не выйшла. У гады рэакцыі (1908—14) Б. адышоў ад дэмакр. руху. У пач. 1919 супрацоўнік Наркамасветы БССР. У 1-й пал. 1920-х гадоў супрацоўнічаў у віленскім рускім друку. Далейшы лёс невядомы.

*Літ.:* Идеи материализма и диалектики в Белоруссии (дооктябрьский период). Мн., 1980. С. 211—251; Конон В. М. Проблемы искусства и эстетики в общественной мысли Белоруссии начала XX в. Мн., 1985. *У. М. Конан.*

**БО́ХАН** Дзмітрый Мікітавіч (27.5.1924, в. Падгайшчына Аршанскага р-на — 16. 2.1944), удзельнік *Аршанскага патрыятычнага падполля* ў Вял. Айч. вайну. Кіраўнік групы, якая дзейнічала на Аршанскім чыг. вузле, нафтабазе, чыг. ст. Мажэеўка, сярод ваен. фарміраванняў праціўніка. У перыяд з лют. 1942 да лют. 1944 групай узарвана нафтабаза (1400 т бензіну), 13 эшалонаў з жывой сілай, тэхнікай, боепрыпасамі, гаручым і прадуктамі, 5 паравозаў, 236 вагонаў, 14 аўтамашын і будынак чыг. ст. Самалюбаўка (за 18 км ад Рослаўля), пашкоджана 78 паравозаў, вял. колькасць рэек, стрэлачных пераводаў. Падпольшчыкі паведамлялі камандаванню 1-й імя К. С. Заслонава партызанскай брыгады звесткі пра размяшчэнне вайск. часцей, складоў і абарончых збудаванняў праціўніка, перадавалі ўзоры новых ням. снарадаў, распаўсюджвалі лістоўкі ў Оршы і яе наваколлі. У лют. 1944, вяртаючыся з задання, трапіў у засаду. Каб не трапіць у рукі ворага жывым, падарваў сябе гранатай.

**БО́ХВІЦ** Фларыян (4.5.1799, мяст. Мір Навагрудскага пав., цяпер Карэліцкі р-н — 9.8.1856), беларускі філосаф. Вучыўся ў Нясвіжы, вывучаў права ва ун-тах Кіева і Вільні. Быў чл. Навагрудскай карпарацыі адвакатаў. З 1838 жыў у Вошкаўцах Навагрудскага пав. (цяпер в. Ураджайная Ляхавіцкага р-на), займаўся сельскай гаспадаркай і навукова-літ. творчасцю. Асн. працы выдадзены ў Вільні на польскай мове: «Сутнасць маёй думкі...» (ч. 1—3, 1838—41), «Асновы маіх думак і пачуццяў» (1842), «Думкі пра выхаванне чалавека» (1847). Б.— прадстаўнік хрысціянскага кірунку філас. думкі на Беларусі (К. Нарбут, А. Доўгірд, Ю. Шаняўскі і інш.), які ўвасабляў прагу да традыц. маральна-рэліг. каштоўнасцей. Крытычна ставіўся да вучэння Гегеля, які, на думку Б., атаясамліваў Бога і Розум, што недапушчальна ні тэарэтычна, ні маральна-практычна, бо гэта прыводзіць да знішэння рэлігійнасці, бянтэжыць душы, псуе адносіны паміж людзьмі. Лічыў неабходным проціпаставіць «разбуральнаму» ўплыву ням. і французскага вальнадумства сапраўдную арыентацыю філасофіі на рэлігію. Б. не стварыў стройнай філас. сістэмы, але распрацаваў на агульным тэарэт. грунце шэраг асобных пытанняў грамадска-паліт. і этычнага характару. Падкрэсліваў ролю працы для нармальнага функцыяніравання грамадства, выказваўся за шанаванне прыватнай уласнасці, павагу да дзярж. устанаўленняў. Педагагічная праграма Б. грунтавалася на прынцыпах *Асветніцтва* і рэліг. маралі. Разглядаў пытанні выхавання і адукацыі ў залежнасці ад розных узростаў, закранаў праблемы жаночага выхавання (лічыў, што яно павінна быць хатнім). Выступаў за спалучэнне навучання з працоўнай дзейнасцю вучняў, гарманічнае развіццё іх разумовых і фізічных здольнасцей. Сэнс адукацыі бачыў у выхаванні людзей, карысных для грамадства «на розных пасадах і ў розных жыццёвых абставінах». Пахаваны Б. у в. Дарава Навагрудскага пав. (цяпер Ляхавіцкі р-н). На ўшанаванне яго памяці маёнтак Новыя Вошкаўцы названы Фларыянава (цяпер в. Флер'янова Ляхавіцкага р-на).

*Тв.:* рус. пер. у кн.: Антология педагогической мысли Белорусской ССР. М., 1986. С. 168—171.

*Літ.:* Мохнач Н. Н. От Просвещения к революционному демократизму. Мн., 1976. *Э. К. Дарашэвіч.*

**БО́ЧКА,** 1) бандарны выраб, адна- ці двухдонная цыліндрычная пасудзіна розных памераў. Вырабляецца з акруглых выпуклых клёпак, больш шырокіх у сярэдняй частцы, што надае ёй пукатую форму. Клёпкі сціскаюцца металічнымі (раней і драўлянымі) абручамі. Функцыянальнае прызначэнне рознае. Б. вялікіх памераў (на 50—60 вёдзер) выкарыстоўвалі для падвозу вады. Яны былі двухдонныя, з шырокай адтулінай пасярэдзіне ў клёпках (у яе ўстаўлялася карытца з дзіркай); іх гарызантальна мацавалі на двухколцы. Такую Б. выкарыстоўвалі ў проціпажарных мэтах: яе напаўнялі вадой і ставілі каля абшчыннага свірна пасярод вёскі. Бочкі пад збожжа (усыпішчы, судзіны) таксама былі вял. памераў (1,5×1 м). Часам яны не мелі днішчаў і іх замацоўвалі стала на глінянай аснове ў свірне ці кладоўцы. Аднадонныя бочкі сярэдніх памераў (на 20—30 вёдзер) выкарыстоўвалі пад квашаную капусту, буракі, бацвінне; бочкі меншых памераў — для мочанай садавіны, салёных грыбоў, агуркоў, квашанага шчаўя, бярозавага ці кляновага соку. Невялікія бочкі (паўбочачкі) — біклагі, барылкі — былі часцей двухдоннымі і выкарыстоўваліся пад напіткі. Асобныя віды бочак выкарыстоўваюцца ў наш час. 2) Адна з асноўных, самых ужывальных мер сыпкіх рэчываў, вадкасці, адзінкавых прадметаў (накшталт селядцоў), масы рэчыва (найчасцей мяса) на Беларусі, у Літве, Польшчы і на Украіне ў 15—18 ст. Велічыня Б. як адзінкі вымярэння ў розных мясцінах Беларусі была неаднолькавая, пра што сведчыць ужыванне гэтага слова з азначэннямі, якія паказваюць прыналежнасць меры да той ці іншай мясцовасці. Напрыклад, «бочка меры Виленское, Минское, Лукомъское, Крокиновское, бочка посвальская» і інш. Неаднолькавая была Б. і для рознага характару вымярэння, і гэта таксама выклікала неабходнасць ужываць складаную назву — «бочка мерная, ратушная, торговая, местъская, дворная». Статутам ВКЛ 1588 Б. была зацверджана як асноўная дзярж. адзінка вымярэння, якая складалася з 4 карцоў. Гл. таксама *Бочка віленская.*

*Літ* Молчанова Л А Материальная культура белорусов Мн, 1968; Скурат К У Даўнія беларускія меры (лексічны аналіз). Мн, 1974, Титов В. С Народные деревообрабатывающие промыслы Белоруссии (1917—1941 гг) Этногр. очерки бондарного промысла и изготовления транспортных средств. Ми, 1976.

*К. У Скурат, В. С Цітоў.*

**БО́ЧКА ВІ́ЛЕНСКАЯ,** мера сыпкіх рэчываў у ВКЛ. Паводле пастановы сойма ВКЛ (1766) раўнялася 406,54 л, прыблізна адпавядала 19 пудам пшаніцы, 18 — жыта, 15 — ячменю, 10 пудам аўса. Пасля далучэння Беларусі да Расіі прыведзена ў адпаведнасць з рус. мерамі: дзялілася на 4 чвэрці (карцы), 8 асьмін, 16 шаснастак, 72 гарцы вялікія, 144 гарцы малыя (гл. *Гарнец).*

**БРА́ГІН,** гарадскі пасёлак, цэнтр Брагінскага р-на. Размешчаны на р. Брагінка, за 119 км на ПдЗ ад Гомеля, 28 км ад чыг. ст. Хойнікі. Аўтамаб. дарогамі злучаны з Хойнікамі, Камарынам, Лоевам. 3,7 тыс. ж. (1993).

Стараж. Б. узнік як дрыгавіцкі горад у зоне кантактаў дрыгавічоў, палян і севяран. Упершыню ўпамінаецца ў Іпацьеўскім летапісе пад 1147 «...по томже времени како уже рекы сташа пославше Ольгович и Давидовича дружину свою с половцы воеваша Брягин...». Чарнігаўскія князі з дапамогай полаўцаў імкнуліся адпомсціць кіеўскаму князю Ізяславу Мсціславічу за разрабаванне чарнігаўскіх гарадоў. У 1187 кіеўскі князь Рурык Расціславіч падараваў Б. жонцы свайго сына Расціслава Верхуславе, дачцэ суздальскага князя Усевалада Юр'евіча. У 1241 ці ў 1242, верагодна, быў разрабаваны і спалены мангола-татарамі. З 1360-х гадоў уваходзіў у склад ВКЛ як уласнасць вял. князёў. У 1511 кароль Жыгімонт І Стары дараваў Б. грамату, якая давала жыхарам пэўныя правы і льготы. У канцы 16 ст. перайшоў ва ўласнасць князёў Аляксандра і Міхайлы Вішнявецкіх і падзелены «напалы». Вішнявецкія пабудавалі на месцы дзядзінца Брагінскі замак. У 1603 (паводле некат. крыніц у 1601 ці 1606) князь Адам Вішнявецкі, які варагаваў з маскоўскім царом Барысам Гадуновым, прымаў у сваім маёнтку ў Брагіне Лжэдзмітрыя І. У сярэдзіне 17 ст. Б. належаў князю Іераміі Вішнявецкаму. У 1648 у час антыфеад. вайны укр. і бел. народаў 1648—51 жыхары Б. адчынілі браму замка войскам Б. Хмяльніцкага. Брагінцы і сяляне навакольных весак сабралі полк (каля 6 тыс. чал.), які выступіў пад кіраўніцтвам казацкага галавы Магеры. Горад быў разбураны карнымі атрадамі Рэчы Паспалітай, а жыхары пакараны. Пасля гэтага Б. заняпаў, Вішнявецкія страцілі сваю магутнасць і ўладу З 2-й пал 17 ст Б.— уласнасць князёў Канецпольскіх, потым на працягу 18 ст.— розных магнатаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Расійскай імперыі, цэнтр воласці Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У 1897 4,3 тыс. ж. У 1905 у Б. 2,7 тыс. ж., 2 царквы і школа. У ліст. 1917 устаноўлена сав. ўлада. У лют.—снеж. 1918 акупіраваны герм. войскамі. З 1919 у складзе Рэчыцкага пав. Гомельскай губ. РСФСР, з 8.12.1926 у БССР, цэнтр Брагінскага р-на, з 27.9.1938 гар. пасёлак. У 1939 4,7 тыс. ж. У Вял. Айч. вайну з 28.8.1941 акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У Б. дзейнічала *Брагінскае патрыятычнае падполле* Вызвалены 23.11.1943 воінамі 55-й і 356-й стралк. дывізій 61-й арміі, 68-й асобнай танкавай брыгады Бел. фронту і партыз. брыгады імя Катоўскага ў ходзе бітвы за Дняпро. У 1969 у Б.— 6,7 тыс. ж. У Б. масласырзавод, хлебазавод, цэх кармавых дражджэй, раённае аб'яднанне аграпрамтэхнікі, камбінат быт. абслугоўвання, метэастанцыя. Сярэдняя і муз. школы, 1 дашкольная ўстанова, Дом культуры, 2 б-кі, музей нар. славы, бальніца, паліклініка. Выдаецца газ. «Маяк Палесся». Брацкія магілы сав. воінаў і партызан, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, у адной з іх пахаваны Героі Сав. Саюза П. С. Мамкін і М. Ф. Махаў; магілы мірных жыхароў, расстраляных ням.-фаш. акупантамі ў 1941—43; помнік сав. танкістам, якія ў кастр. 1943 фарсіравалі Дняпро. У выніку Чарнобыльскай катастрофы 1986 знаходзіцца ў зоне радыеактыўнага забруджвання.

*Літ* Запольский М Брагинская волость (ист очерк) // Календарь «Северо-Западного края» на 1889 г. М., 1889, Рогалеў А Ф. Старажытная спадчына Брагінскай зямлі // Рогалеў А Ф Сцежкі ў даўніну Мн, 1992. *А Ф Рогалеў*

**БРА́ГІН** Аляксей Федаравіч [14(27).3. 1905, в. Бурцава Ніжагародскага пав., цяпер Багародскі р-н Ніжагародскай вобл.— 9.10.1941], адзін з арганізатараў і кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху на тэр. Мінскай і Палескай абл. у Вял. Айч. вайну. Скончыў Вышэйшую школу партарганізатараў пры ЦК ВКП(б) (1940). З ліп. 1940 нам. загадчыка аддзела, з сак. 1941 сакратар Мінскага абкома КП(б)Б. У Айч. вайну з ліп. 1941 сакратар Мінскага падпольнага абкома КП(б)Б, стварыў падп. райкомы партыі, арганізоўваў партыз. атрады ў Мінскай і Палескай абл. У кастр. 1941 пры выкананні задання па арганізацыі партыз. атрада схоплены гітлераўцамі каля пас. Чырвоная Паляна Любанскага р-на. Забіты пры спробе ўцячы. Пахаваны ў г. Любань. Яго імем была названа партыз. брыгада 121-я Мінскай вобл. Імя Б. прысвоена вуліцам у г. Любань, в. Малыя Гарадзяцічы Любанскага р-на.

**БРА́ГІНСКАЕ ПАТРЫЯТЫ́ЧНАЕ ПАДПО́ЛЛЕ** ў Вялікую Айчынную вайну. Дзейнічала з канца 1941 да вер. 1943 у г п. Брагін і ў в. Савічы Брагінскага р-на Групу ў Брагіне (15 чал.) стварыў і ўзначаліў П. Р. Зяновіч, з вясны 1942 кіраўнік М. Л. Дубіна, з кастр. 1942 — С. І. Рэпчанка; групу ў в. Савічы (19 чал.) стварылі і ўзначалілі С. І. і Ф. І. Філіпенкі, з вясны 1942 кіраўнік Ф А. Загаранскі. Групы наладзілі сувязь з партыз. атрадам імя Катоўскага.

Падпольшчыкі прымалі па радыё і распаўсюджвалі сярод насельніцтва зводкі Саўінфармбюро, лістоўкі, здабывалі зброю і боепрыпасы, перашкаджалі фашыстам вывозіць моладзь на катаргу ў Германію. Вясной 1942 падп. група в. Савічы разам з партызанамі разграміла мясц. гарнізон ворага, маслазавод, знішчыла будынак і дакументы валаснай управы. У жн. 1942 фашысты арыштавалі каля 30 падпольшчыкаў і пасля жорсткіх катаванняў многіх з іх расстралялі. Тыя, што засталіся, а таксама новыя патрыёты ўзмацнілі дапамогу партызанам, агітацыю ў славацкіх вайсковых падраздзяленнях працўнікa. У 1943 спалілі друкарню, 2 аўтамашыны, вывелі са строю электрастанцыю, з партызанамі разграмілі ў Брагіне варожы гарнізон, пасля чаго пайшлі ў партыз. атрад імя Катоўскага.

**БРА́ГІНСКІ РАЁН.** Размешчаны на ПдУ Гомельскай вобл. Пл. 1,9 тыс. км$^2$. Утвораны 8.12.1926. Цэнтр — г п. Брагін. На 1.1.1991 у раёне 83 сельскія населеныя пункты, г. п. Камарын, 12 сельсаветаў: Асарэвіцкі, Астраглядаўскі, Верхняжарскі, Вуглоўскі, Гдзенскі, Крыўчанскі, Малажынскі, Малейкаўскі, Мікулічкі, Новаялчанскі, Спярыжскі, Чамярыскі. Пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС 1986 частка тэр. раёна ўвайшла ў зону радыяцыйнага кантролю, частка населеных пунктаў — у зону адсялення. На 1.1.1991 у раёне (без Брагіна) 17,5 тыс. жыхароў.

Раён у межах Гомельскага Палесся, паверхня пераважна нізінная. Найб. рэкі Дняпро (на мяжы з Украінай), Брагінка. Лясы займаюць каля 30 % тэр. раёна, найб. буйныя масівы: Лубінецкая, Верхняжарская, Петрыцкая і Савіцкая дачы. На тэр. раёна помнік садова-паркавага мастацтва — парк 18 ст. ў в. Тэльман; у 19 ст. закладзены Гарадзішчанскі парк. Па тэр. раёна праходзіць чыг. Чарнігаў — Оўруч; аўтамабільныя дарогі Хойнікі — Брагін — Камарын, Брагін — Холмеч. Утвораны ў складзе Рэчыцкай акр., з 9.6.1927 у Гомельскай акр., з 15.1.1938 у Палескай, з 8.1.1954 у Гомельскай абл. Частка тэр. раёна да 1962 уваходзіла ў Камарынскі р-н, да 1966 — у Лоеўскі. У Вял. Айч. вайну са жн. 1941 акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі тут больш за 10 тыс. чалавек. На тэр раёна дзейнічалі *Брагінскае патрыятычнае падполле,* Брагінскі і Камарынскі падп. райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ, партыз. брыгада Лоеўская «За Радзіму», атрад імя Р І Катоўскага. Раён вызвалены ў канцы ліст. 1943 войскамі Бел. фронту і партыз. атрада імя Катоўскага. Да 1986 у сельскай гаспадарцы раёна асн. месца займала мяса-малочная жывелагадоўля, пашыраны пасевы збожжавых і бульбы 21 калгас, 8 дзяржгасаў. Прадпрыемствы

харчовай прам-сці, торфапрадпрыемства. На 1.1.1991 у раёне (без Брагіна) 12 сярэдніх школ, 5 васьмігадовых, 2 дзіцячыя спартыўныя, 21 дашкольная ўстанова, 35 клубаў, 35 б-к, 38 кінаўстановак, 2 паліклінікі, 3 бальніцы, 4 амбулаторыі, 20 фельчарска-акушэрскіх пунктаў. Газета «Маяк Палесся». На тэр. раёна брацкія магілы: сав. воінаў і партызан, што загінулі ў Вял. Айч. вайну, у вёсках Асарэвічы (сярод пахаваных Героі Сав. Саюза Е. І. Данільянц, А. Г. Даўлетаў, У. М. Кастрыкін, М. М. Уласаў), Выграбная Слабада, Галкі (сярод пахаваных Героі Сав. Саюза К. Д. Грыцынін, Т. Т. Міндыгулаў), Гдзень, Глухавічы, Кавака, Калыбань, Карлаўка, Крукі, Крыўча, Лубенікі, Малажын, Малейкі, Петрыцкае, Піркі (сярод пахаваных Героі Сав. Саюза С. К. Галавашчанка і В. Ф. Загайнаў), Тэльман, Хракавічы, у г. п. Камарын (сярод пахаваных Героі Сав. Саюза А. Анаеў, В. І. Баяркін, Дз. Ф. Грачушкін, М. Д. Грышчанка, Ф. К. Паўлоўскі, М. А. Якаўлеў), у пас. Громкі; магілы ахвяр фашызму ў вёсках Велімаў, Гдзень, Кірава, Новая Ёлча, Піркі, Савічы, Цалуйкі; магіла Героя Сав. Саюза П. С. Жукава (в. Мікулічы). Помнікі на месцы гібелі Героя Сав. Саюза М. Ф. Махава (в. Жылічы), лётчыка Г. Дз. Чарстова (в. Жэрднае), партыз. сувязной П. М. Асядач (в. Кацічаў); землякам, што загінулі ў Вял. Айч. вайну, у в. Асарэвічы, Астрагляды, Буркі Бярозкі, Верхнія Жары, Вуглы, Гдзень, Глухавічы, Дублін, Жэрднае, Залессе, Зарэчча, Іванкі, Калыбань, Кацічаў, Кірава, Краснае, Крыўча, Людзвінава, Малажын, Малейкі, Мікулічы, Новая Грэбля, Пучын, Сабалі, Спярыжжа, Сцежарнае, Сялец, Чамярысы, Чыкалавічы, Шкураты, Ясяні; у гонар Брагінскага падп. РК КП(б)Б і штаба асобнага партыз. атрада імя Катоўскага (в. Нежыхаў), у гонар воінаў-вызваліцеляў (г. п. Камарын).

Сярод ураджэнцаў раёна Герой Сав. Саюза П. І. Шпетны (в. Гдзень), фізіка-хімік, акадэмік АН БССР М. М. Паўлючэнка (в. Глухавічы), драматург В. П. Палескі (в. Астрагляды), пісьменнік Р. К. Сабаленка (в. Пучын).

*А. Б. Ягорава.*

БРАГІНСКІ РАЕН

**БРАДО́ЎСКІ** Антон Рафаілавіч [8(20). 10.1859, Новааляксандраўск Ковенскай губ., цяпер г. Зарасай, Літва — 17.3. 1928], беларускі калекцыянер, музейны работнік. Скончыў Новааляксандраўскае пав. вучылішча (1875). Працаваў пісьмаводам, даваў прыватныя ўрокі па агульнаадукацыйных дысцыплінах. У 1881—82 загадчык Васільеўскай казённай цагельні ў Вільні, у 1882—92 дзесятнік на будаўніцтве крэпасці ў Коўне (цяпер Каўнас) і ваен. порта ў Лібаве (цяпер Ліепая). У 1893—1918 у інжынерным упраўленні Віленскай ваен. акругі. Прымаў удзел у будаўніцтве помнікаў Кацярыне II і М. Мураўёву ў Вільні (1897—98). У 1915 у сувязі з 1-й сусв. вайной разам са штабам акругі пераехаў у Віцебск. З дзяцінства займаўся нумізматыкай і калекцыяніраваннем прадметаў старажытнасці. Частку калекцыі (каля 4,5 тыс. манет і медалёў, прадметаў археал. раскопак, мастацкіх твораў) перадаў Віцебску і на яе аснове ў 1918 заснаваў Віцебскі губ. музей (гл. *Віцебскі абласны краязнаўчы музей*), у якім працаваў загадчыкам, з 1924 навук. супрацоўнікам. Член Віцебскай камісіі па ахове помнікаў гісторыі і мастацтва (1919—24), *Віцебскага акруговага таварыства краязнаўства* (1924—28).

*Літ.:* Падліпскі А. М. Заснавальнік

віцебскага музея // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1980. № 2.
*А. М. Падліпскі.*

**БРА́ЙЦАЎ** Якуб (Якаў Раманавіч; 19.2.1861, в. Забялышын Клімавіцкага пав., цяпер Хоцімскі р-н — 2.3.1931), беларускі рускамоўны пісьменнік, удзельнік грамадскага руху. Скончыў Клімавіцкае пав. вучылішча. Працаваў у Забялышынскім пав. праўленні. З 2-й пал. 1880-х гадоў у Маскве. На Магілёўшчыне ў 1900-я гады набыў вядомасць як сял. адвакат, у 1905 быў пад наглядам паліцыі. Пасля 1917 працаваў на радзіме ў мясц. органах сав. улады, настаўнічаў. Член Усерас. саюза сял. пісьменнікаў, супрацоўнік «Крестьянской газеты» (Масква). Літаратурную дзейнасць пачаў у 1880-я гады. Як пісьменнік фарміраваўся пад уплывам рус. класічнай л-ры, ідэй Л. М. Талстога. Філасофскія і маральныя пошукі, непрынянце бездухоўнасці існуючага ладу адбіліся ў аповесці «Няўдашачка Анюта» (1887, рук.), апавяданні «Юда» (1899, рук.). Галоўная тэма творчасці — лёс бел. сялянства: бяспраўнае становішча ў часы прыгонніцтва (апавяданне «Дудалёва лаза», 1884, апубл. 1966), побыт і працэсы сац. расслаення ў бел. вёсцы 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. (аповесць «Багацеі», 1889; апавяданне «Бяда цыгана», 1905, рук.), жыццё ў сав. час (верш «Дудка», 1920, рук.; аповесць «Гаспадар», 1929, рук.). У аснове рамана «Сярод балот і лясоў» (1913—16, рук.) — рэальныя падзеі, звязаныя з рэвалюцыяй 1905, дзейнасцю атрада рэвалюцыянера-экспрапрыятара А. Савіцкага. Рукапісы Б. захоўваюцца ў Цэнтр. дзярж. архіве-музеі л-ры і мастацтва Беларусі.

*Тв.:* Богачи: Повесть из белорусской простонародной жизни. М., 1889; бел. пер.: Дудалёва лаза // Беларусь. 1966. № 9.
*Літ.:* Ф. Д. [Дамінікоўскі Ф.] Пісьменнік старой Беларусі // Беларусь. 1947. № 3; Шушкевіч С. Якуб Брайцаў // Там жа. 1966 № 9. *С. А. Кузняева.*

**БРАНЗАЛЕ́Т**, упрыгожанне для рук (у некаторых народаў і ног) пераважна кольцападобнай формы. Выкарыстоўваюцца часам у якасці амулета, узнагароды; вядомы баявыя Б., што засцерагалі руку ад халоднай зброі. Выраблялі з розных металаў, косці, бурштыну, шкла і інш. У палеаліце іх рабілі з біўняў маманта, у неаліце — з косці і рогу (стаянкі *Галоўск*). У бронзавым веку металічныя Б. выгіналі з каванага дроту або пласцін. Раннія медныя неарнаментаваныя Б. сярэднедняпроўскай культуры (2-е тысячагоддзе да н. э.) выяўлены на могільніку Стрэліца (Веткаўскі р-н), бронзавыя Б. тшцінецкай культуры былі аздоблены завіткамі на канцах. У раннім жал. веку Б. выраблялі з бронзы, медзі, жалеза і серабра ў тэхніцы ліцця. У папярочным сячэнні яны былі пляскатыя, круглыя, трохвугольныя, квадратныя, выраблялiся і з кручанага дроту. Формы некаторых Б. мілаградскай культуры запазычаны ў суседніх скіфскіх і кельцкіх плямён (гарадзішча *Гарошаў*). Пра іх мясцовую вытв-сць сведчаць знаходкі ліцейных форм на гарадзішчах (гарадзішчы *Мохаў*, каля в. Леніна Добрушскага р-на і інш.). Жалезныя і бронзавыя Б. часоў зарубінецкай культуры былі з завіткамі на канцах, з завязанымі канцамі. Іх выраблялі з гладкага круглага, прамавугольнага або кручанага дроту. У некаторых бронзавых спіральных Б. сярэдняя расплюшчаная частка была ўпрыгожана ромбападобным пуансонавым арнаментам (могільнік і гарадзішча *Чаплін*). Для плямён днепрадзвінскай і штрыхаванай керамікі культур характэрны драцяныя гладкія, кручаныя і пласціністыя Б. (гарадзішчы *Банцараўшчына, Кімія*). У 5—8 ст. несамкнёныя канцы Б. мелі петлепадобныя або конусападобныя завіткі, у 10—13 ст. іх канцы былі абсечаныя ці патончаныя, з выявамі стылізаваных звяроў або змей. У радзімічаў і палачан канцы Б. таксама былі расклепаныя. Большасць пласціністых і частка драцяных Б. упрыгожвалася разнастайным штампаваным або пуансонавым арнаментам. З развіццём гарадоў і ўдасканаленнем ювелірнай справы Б. пачалі выраблядь з каштоўных металаў (сярэбраны выяўлены ў складзе *Вішчынскага грашова-рэчавага скарбу*, залатыя — у *полацкіх скарбах* і на Мінскім замчышчы). Іх аздаблялі выемчатымі і перагародчатымі эмалямі (Пінск), каштоўнымі камянямі, чарненнем, філігранню, зярненнем, інкрустацыяй. Побач з металічнымі з 11 ст. бытавалі шкляныя Б. У часы Кіеўскай Русі іх прывозілі пераважна з Візантыі, у 13—14 ст. найбольш пашыраны Б. мясцовай вытв-сці (Віцебск, Вішчын, Полацк, Свіслач і інш.). Пераважная большасць шкляных Б. выяўлена ў гарадах і ўмацаваных паселішчах, зрэдку трапляюцца на селішчах (у 58 помніках). Іх выраблялі выцягваннем і згінаннем, скручваннем шклянога дроту ці жгута з мяккай шкламасы або перавіваннем асновы рознакаляровымі шклянымі ніткамі. Для іх вытв-сці выкарыстоўвалі шкло сіняга, зялёнага, жоўтага, фіялетавага, карычневага, чорнага, зрэдку чырвонага колераў. У шкляных Б. аздаблялі пераважна верхнюю частку ўцісканнем, унясеннем у шкламасу рознага аздаблення, размалёўкай фарбамі. Сучасныя Б. выраблююць з металаў, дрэва, скуры, саломкі, пластмасы, часта па стараж. узорах.

Бронзавыя бранзалеты 11—12 ст. з в. Перавоз Глыбоцкага р-на.

Фрагменты шкляных бранзалетаў 12—13 ст. з Віцебска.

Сучасныя скураныя бранзалеты (маст. М. Г. Бацюкова).

Сучасныя саламяныя бранзалеты (маст. С. А. Хруцкая).

*Літ.:* Мельниковская О. Клад браслетов в д. Горошков (Южная Белоруссия) // Вестн. древней истории. 1956. № 1; Штыхаў Г. Б., Захарэнка П. Н. Старажытныя скарбы Беларусі. Мн., 1971; Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 1—2. Мн., 1970—72; Яніцкая М. М. Вытокі шкларобства Беларусі. Мн., 1980.
*Ю. А. Заяц, С. Я. Расадзін, Т. С. Скрыпчанка.*

**БРА́НСКАЯ АПЕРА́ЦЫЯ 1943** у Вялікую Айчынную вайну, наступальная аперацыя войск Бранскага фронту (ген. арміі М. М. Папоў) 1.9 — 3.10.1943.

Удзельнічалі арміі 50-я (ген.-лейт. І. В. *Болдзін*), 3-я (ген.-лейт А. В. *Гарбатаў*), 11-я гв (ген.-палк. І. Х. *Баграмян*), 11-я (ген.-лейт. І. І. *Фядзюнінскі*), 63-я (ген.-лейт У. Я. *Калпакчы*), 15-я паветр. (ген.-палк. авіяцыі М. Ф. Навуменка) Пасля разгрому арлоўскай групоўкі праціўніка ў час *Курскай бітвы 1943* перад войскамі Бранскага фронту, якія падышлі да абарончага рубяжа праціўніка на У ад Бранска і Наўлі, была пастаўлена задача разграміць 9-ю ням.-фаш. армію, выйсці да р. Дзясна, фарсіраваць яе на ПнЗ і на Пд ад Бранска і пасля авалодання плацдармам у лукавіне ракі наступаць на Гомель.

Наступленне пачалі войскі левага крыла фронту: 1 вер — 63-я армія, 2 вер.— частка сіл 11-й гв. арміі, што прымусіла ням. камандаванне сканцэнтраваць увагу на гэтым участку На інш. участках фронту 3—5 вер. сав. войскі праводзілі разведку боем. 7 вер. ў наступленне перайшла 50-я армія і прарвала абарону праціўніка. Уведзены ў прарыў 2-і гв. кавалерыйскі корпус (ген.-маер У. В. Крукаў) 11 вер. фарсіраваў Дзясну і захапіў плацдарм на яе правым беразе. Пагроза, што сав. войскі абыдуць паўн фланг бранскай групоўкі ням.-фаш. войск, вымусіла ням. камандаванне адвесці свае войскі перад фронтам 3-й і 11-й сав. армій. 17 вер. войскі 11-й арміі і партызаны вызвалілі Бранск і Бежыцу. Пасля вызвалення сав. войскамі Бранска праціўнік быў не ў стане ўтрымліваць абарону на Дзясне і пачаў хутка адыходзіць на загадзя падрыхтаваную абарончую пазіцыю «Пантэра» па берагах рэк Сож і Проня. 20 вер. пачалося праследаванне праціўніка па ўсей паласе фронту. Сав. авіяцыя бамбіла і штурмавала варожыя калоны, якія адыходзілі, наносіла ўдары па яго пераправах на Дзясне. Войскі 50-й і 3-й сав. армій увайшлі на тэр. Беларусі і 26 вер. вызвалілі раенны цэнтр — г п. Хоцімск. Для праследавання праціўніка была створана рухомая конна-механізаваная група фронту ў складзе 2-га гв. кавалерыйскага і 1-га танк. карпусоў і часцей узмацнення (ген.-лейт. М. І. Казакоў), часці якой 28 вер. вызвалілі 2-і раеины цэнтр — г. Ветка. У той жа дзень часці 3-й арміі вызвалілі г Касцюковічы, часці 50-й арміі — г. Клімавічы, 1 кастр.— г. Чэрыкаў 29 вер. часці 50-й арміі ва ўзаемадзеянні з часцямі 10-й арміі Зах. фронту вызвалілі г. Крычаў, часці 3-й арміі 1 кастр.— г. п Краснаполле. З войскамі Чырвонай Арміі ўзаемадзейнічалі партызаны. Да 1—3 кастр. войскі Бранскага фронту выйшлі да рэк Проня, Сож, фарсіравалі Сож і захапілі плацдарм на яго правым беразе, прарвалі абарончы рубеж ням.-фаш войск «Пантэра». Гэтым былі створаны перадумовы для далейшага наступлення сав. войск на гомельскім напрамку. У выніку аперацыі вызвалены ўвесь Бранскі прамысл. раен і частка Беларускай ССР. 11 часцей і злучэнняў атрымалі ганаровае найменне «Бранскіх», 5 — «Бежыцкіх», 3 — «Крычаўскіх»

Герб Браслава. 1792

*Літ* Великая Отечественная война Советского Союза, 1941—1945 Краткая история. 2 изд М, 1970, Сандалов Л М На московском направлении М, 1970, Брянский фронт Тула, 1973, История второй мировой войны, 1939—1945 Т 7 М, 1976
*У І Лемяшонак*

**БРА́НСКІ ФРОНТ 1943.** Утвораны 29.3.1943 на зах. напрамку ў складзе 3-й (ген-лейт А. В. Гарбатаў) і 61-й (ген.-лейт. П. А Бялоў) агульнавайск армій і 15-й паветр арміі (ген.-лейт. авіяцыі М. Ф. Навуменка) У склад фронту ў розны час уваходзілі арміі 63-я (ген.-лейт У. Я. Калпакчы), 50-я (ген.-лейт. І. В. Болдзін), 11-я (ген-лейт. І І. Фядзюнінскі) і 11-я гв. (ген-лейт. І Х. Баграмян) агульнавайсковыя, 3-я гв. (ген-лейт. П С Рыбалка) і 4-я (ген.-лейт В. М. Баданаў) танкавыя арміі. У ходзе *Курскай бітвы 1943* у ліп.— жн 1943 Б. в. ва ўзаемадзеянні з войскамі левага крыла Зах. фронту і правага крыла Цэнтр фронту правеў Арлоўскую аперацыю. У ходзе *Бранскай аперацыі 1943* войскі фронту ў верасні выйшлі па р. Сож, фарсіравалі яго і, захапіўшы плацдарм, вызвалілі ўсх. раены БССР, у т. л. раенныя цэнтры Хоцімск, Клімавічы, Касцюковічы і Крычаў. 10.10.1943 Б. ф. расфарміраваны.

Кіруючы састаў камандуючыя — ген.-палк. М. А. Рэйтар (29.3—5.6.1943), ген.-палк., з 26.8.1943 ген. арміі М М Папоў (6.6—10.10.1943), члены ваен. савета — ген.-лейт. І. З. Сусайкаў, з 7.7 1943 ген.-лейт. Л. З. Мехліс; нач. штаба — ген.-лейт. Л. М. Сандалаў
*М І Камінскі*

**БРАНТ** Пётр-Уладзіслаў Казіміравіч (15.2.1836, в Рудакі Вішнеўскай вол Свянцянскага пав. Віленскай губ.— 1912), удзельнік *паўстання 1863—64* на Беларусі, у Літве і Польшчы. Вучыўся ў Маладзечне. З 17 гадоў у арміі, дзе зблізіўся з рэвалюцыйна настроенымі афіцэрамі. Напярэдадні паўстання служыў у Беластоку, паручнік. У крас 1863 з групай афіцэраў Лібаўскага пях палка ўцек з часці, удзельнічаў у фарміраванні гал. паўстанцкага атрада Гродзенскага ваяв. (губерні) 17 4 1863 удзельнічаў у баях супраць царскіх войск на Беласточчыне, потым на чале асобнага атрада ў Аўгустоўскім пав., вызначыўся ў многіх баях на сумежжы Літвы і Польшчы У 2-й пал 1863 кіраваў невялікімі атрадамі паўстанцаў з сялян у Курпеўскай пушчы. З канца 1863 у эміграцыі (Парыж, Галіцыя) Аўтар успамінаў пра паўстанне

*Тв* Mój udział w powstaniu // W czterdziestą rocznicę Powstania Styczniowego, 1863—1903 Lwow, 1903

*Літ* Русско-польские революционные связи Т 1—2 М, 1963 (Восстание 1863 года Материалы и документы) *Г В Кісялёў*

**БРА́НЦАЎ** Павел Дзмітрыевіч (5 8 1845—?), рускі гісторык-манархіст, стацкі саветнік. У 1873—75 выкладчык мужчынскай гімназіі ў Сімферопалі да 1898 выкладаў гісторыю і геаграфію ў Віленскім рэальным вучылішчы, да 1906 дырэктар нар. вучылішчаў у Курляндскай губ У 1890-я гады супрацоўнічаў у «Виленском календаре» і «Виленском

вестнике». Найб. вядомыя яго працы па гісторыі ВКЛ. Гал. заслугай бел. князёў лічыў іх барацьбу за праваслаўе. На думку Б., рус. цары выратавалі беларусаў і літоўцаў ад польскай асіміляцыі. Ухваляў Мураўёва-вешальніка за задушэнне паўстання 1863—64.

*Тв.:* История Литовского государства с древнейших времён. Вильна, 1889; Польский мятеж 1863 г. Вильна, 1891 (на вокл. 1892); Очерк древней Литвы и Западной России. 2 изд. Вильна, 1896; Восстание поляков в 1830 и 1831 гг. Вильна, 1896.

*Дз. У. Караў.*

**БРА́СЛАЎ,** горад, цэнтр Браслаўскага р-на. Размешчаны паміж азёрамі Дрывяты, Навята, Бярзжа, Святца, Загноек. За 220 км на З ад Віцебска, 30 км ад чыг. ст. Друя; аўтадарогамі злучаны з Друяй, Міёрамі, Шаркоўшчынай, Відзамі, Даўгаўпілсам. Аэрапорт. 9,5 тыс. ж. (1990).

Заснаваны ў пач. 11 ст. на месцы існаваўшага з 9 ст. паселішча латгалаў і крывічоў. Выконваў ролю абарончага пункта на паўн.-зах. парубежжы *Полацкага княства.* Паходжанне назвы звязваюць з імем полацкага князя *Брачыслава Ізяславіча,* пры якім пабудаваны браслаўскія ўмацаванні. Не выключана, што назва горада паходзіць ад балцкай асновы «брасла» (брод), якая пазней магла быць пераасэнсавана славянамі. Б. (летапісны Браславль, Браславль Завельски) упершыню ўпамінаецца ў летапісе Быхаўца і хроніцы М. Стрыйкоўскага пад 1065 у сувязі з нападам на яго літ. князёў братоў Кернуса і Гімбута (фактычна гэта адбывалася ў 1068). Старажытны цэнтр Б.— гарадзішча Замкавая гара — размешчаны на вузкім перашыйку паміж азёрамі Дрывяты і Навята, недалёка ад пратокі паміж імі. Археалагічныя раскопкі праводзілі ў 1955—56 Л. В. Аляксееў, у 1989 — М. А. Ткачоў і Г. М. Семянчук. Па матэрыялах даследаванняў, у 11—13 ст. насельніцтва жыло ў наземных рубленых хатах, займалася сельскай гаспадаркай, рыбнай лоўляй, паляўнічтвам, рамёствамі (апрацоўка дрэва, косці, скуры, ганчарства, ткацтва, кавальства, шыццё), гандлем. З пач. 14 ст. з'яўляўся велікакняжацкім уладаннем. У 14 ст. Б. завяшчаны вял. князем Гедымінам малодшаму сыну Яўнуту. У час выступлення Свідрыгайлы яго войскі ў Б. злучыліся з сіламі Лівонскага ордэна (1434) і татарскай конніцай (1435) — саюзнікамі Свідрыгайлы ў барацьбе з Жыгімонтам Кейстутавічам. 8.10.1500 вял. кн. Аляксандр у час знаходжання ў Б. даў гораду прывілей на магдэбургскае права (няпоўнае), які некалькі разоў пацвярджаўся. Герб «Вока прадбачання» (сімвалічная выява чалавечага вока ў трохвугольніку на фоне сонечных промняў) горад атрымаў 2.6.1792 у адпаведнасці з прывілеем Станіслава Аўгуста. Пасля смерці Аляксандра (1506) уладальніцай горада стала яго жонка Алена, дачка вял. князя маскоўскага Івана III, якая пасялілася ў Б. Алена заснавала на Замкавай гары жаночы праваслаўны манастыр, дзе памерла ў 1513 (пахавана ў Вільні). З 1500 вядомы Браслаўскі мужчынскі манастыр на востраве воз. Неспіш (спачатку праваслаўны, пазней уніяцкі). У 1517 праз Б. праязджаў дыпламат і падарожнік С. Герберштэйн, які адзначыў размяшчэнне горада каля вялізнага возера. На карце Полацкай зямлі 1579 С. Пахалавіцкага Б. паказаны як паселішча на востраве. Б. з'яўляўся велікакняжацкім уладаннем. Дзяржаўцамі былі Сапегі, Масальскія, Скумін-Тышкевічы. Паводле інвентара 1554, у горадзе 5 вуліц, 110 дамоў, з іх 65 дамоў знаходзілася на вуліцы Вялікай, што ўздоўж воз. Дрывяты. На гэтай жа вуліцы размяшчаліся царква, касцёл, бальніца, сядзіба князёў Масальскіх. Існавалі таксама кляштар, 40 корчмаў. Налічвалася каля тысячы жыхароў, якія займаліся пераважна земляробствам, часткова гандлем і рамёствамі. Складальнікі інвентара меркавалі, што гораду перашкаджаюць развівацца азёры. У 15 ст. Б. стаў пав. горадам Віленскага ваяв. Павятовыя сеймікі збіраліся на Замкавай гары, тут жа, паводле пастановы сейма 1590, пабудаваны дом для пасяджэнняў суда і зберажэння архіва. У 16—17 ст. важнае значэнне меў Браслаўскі замак, які ўпершыню згадваецца ў 1514. Знешні выгляд замка ў нейкай ступені перадае малюнак з карты Т. Макоўскага 1613. Інвентар Б. 1649 змяшчае падрабязнае апісанне замка (7 вежаў, брама з падвойнымі варотамі, вежа над брамай з 2 машыкулямі, шэраг будынкаў на дзядзінцы). У горадзе ў гэты час налічвалася 120 дамоў. У 2-й пал. 17—18 ст. Б. моцна пацярпеў у час шматлікіх ваен. дзеянняў, некалькі разоў быў цалкам разбураны. Рашэннем варшаўскага сейма 1661 Б. вызвалены на 4 гады ад усіх падаткаў. У 1794 у горадзе каля 700 ж. (разам з гарнізонам), 68 дамоў. 11.5.1794 на вуліцах Б. адбыўся бой паміж паўстанцамі, прыхільнікамі Касцюшкі, і царскімі войскамі, у час якога горад згарэў. У 1793—95 існавала *Браслаўскае ваяводства,* пасля пажару 1794 цэнтр яго перанесены ў Відзы. У выніку 3-га падзелу Рэчы Паспалітай у 1795 Б. увайшоў у склад Расійскай імперыі. З'яўляўся мястэчкам, цэнтрам валасці Браслаўскага пав. (цэнтрам пав. быў г. Відзы), які з 1795 уваходзіў у склад Віленскай, з 1797 — Літоўскай, з 1801 — Віленскай губ. У Айч. вайну 1812 у Б. 9 дзён размяшчаўся штаб маршала М. Нэя. Восенню 1812 вызвалены армейскім партыз. атрадам палк. Я. І. Властава. З 1843 Б. мястэчка Новааляксандраўскага пав. Ковенскай губ. У 1850-я гады ў Б. 220 ж., 60 двароў, бальніца, касцёл, сінагога, вучылішча, піваварня. У 1864 мастаком і археолагам Д. Струкавым зроблена 14 малюнкаў, прысвечаных гіст. мясцінам Б. і наваколля. Замалёўку Б. рабіў у канцы 1870-х гадоў Н. Орда. У 1913 у Б. 1550 ж., бальніца, сельскае вучылішча, вінакурны з-д. У час 1-й сусв. вайны недалёка ад Б. стабілізавалася лінія фронту (з канца 1915 да лют.

Браслаў. Мастак Дз. М. Струкаў. 1864.

Браслаў. Забудова адміністрацыйнага цэнтра (архітэктар Д. Клос). 1920-я гады.

1918). Сав. ўлада ўстаноўлена ў ліст. 1917. У лютым 1918 акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі. Пасля вызвалення Б. ў пач. снеж. 1918 створаны пав. Новааляксандраўскі ваенна-рэв. камітэт (23.12.1918 перайменаваны ў Браслаўскі раённы ВРК). У пач. 1919 Б. абвешчаны цэнтрам раёна (з лют. 1919 павета) Літ. ССР, потым Літ.-Бел. ССР. У сак. 1919 у сувязі з набліжэннем фронту сав. ўстановы пераведзены з Б. ў Друю. У крас. 1919 працоўныя Б. сфарміравалі і адправілі на фронт атрад чырвонаармейцаў. Са жн. 1919 да чэрв. 1920 горад акупіраваны польскімі войскамі. 5.6.1920 вызвалены часцямі 3-га коннага корпуса пад камандаваннем Г. Гая. У кастр. 1920 зноў захоплены войскамі Польшчы і апынуўся на тэр. т. зв. Сярэдняй Літвы, якая ў лют. 1922 увайшла ў склад Польскай дзяржавы. Б. быў цэнтрам пав. Віленскага ваяв. У вер. 1921 у горадзе 1587 ж., 243 дамы, млын, тартак, цагельня, шэраг дробных прыватных крам. Дзейнічалі акр. камітэты КПЗБ і КСМЗБ. З 1939 Б. у складзе БССР. У 1939 4,9 тыс. ж. З 1940 Б. цэнтр раёна Вілейскай вобл. У чэрв. 1941 акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У горадзе дзейнічала антыфаш. падполле. З вер. 1943 у раёне дзейнічалі падпольныя РК КП(б)Б і ЛКСМБ. Вызвалены 6.7.1944 воінамі 166-й стралк. дывізіі і партызанамі брыгады імя Г. К. Жукава. З вер. 1944 у Полацкай, са студз. 1954 у Маладзечанскай, з 1960 у Віцебскай абл. 4,2 тыс. ж. у 1959, 4,6 тыс. ў 1969. У Б. прадпрыемствы харчовай прам-сці, будаўнічыя арг-цыі, 2 сярэднія, 8-гадовая, музычная і спартыўная школы, Дом культуры, 2 б-кі, кінатэатр, бальніца. Выдаецца газ. «Браслаўская звязда». Брацкія магілы сав. воінаў і партызан, ахвяр фашызму, магіла доктара С. Т. Нарбута. Замкавая гара — помнік археалогіі і гісторыі. Захаваліся помнікі архітэктуры: калодзежны шацёр, Мікалаеўская царква, касцёл (канец 19 ст.). Працуе *Браслаўскі гісторыка-краязнаўчы музей.*

Браслаў. Від з Замкавай гары. 1930-я гады.

Кірмаш у Браславе. 1930.

*Літ.:* Hedemann O. Historja powiatu Brasławskiego. Wilno, 1930; Алексеев Л. В. Раскопки древнего Браслава // Краткие сообщения Ин-та археологии АН СССР. 1960. Вып. 81; Яго ж. Старажытны Браслаў // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1978. № 4. *К. С. Шыдлоўскі.*

**БРА́СЛАЎСКАЕ ВАЯВО́ДСТВА.** Існавала ў ВКЛ у канцы 18 ст. Утворана ў 1793 у час 2-га падзелу Рэчы Паспалітай. Паводле рашэння надзвычайнага Гродзенскага сейма 1793, *Браслаўскі павет* Віленскага ваяв. вылучаны ў асобнае Б. в. з цэнтрам у г. Браслаў (з 1794—Відзы). Падзелу на паветы не было. Скасавана ў 1795 у час 3-га падзелу Рэчы Паспалітай. Яго тэр. ўвайшла як павет у склад Віленскай губ. Расійскай імперыі.

**БРА́СЛАЎСКАЕ ПАТРЫЯТЫ́ЧНАЕ ПАДПО́ЛЛЕ** ў Вялікую Айчынную вайну. Дзейнічала з вер. 1942 да ліп. 1944 у Браславе. Аб'ядноўвала 13 чал. Арганізатары і кіраўнікі: А. А. Васілеўскі (да вер. 1943), Э. А.Ціранаў. Падпольшчыкі вялі антыфаш. прапаганду, здабывалі дакументы, звесткі пра варожыя гарнізоны, месцазнаходжанне вайсковых складоў, казарм і перадавалі іх партызанам, здабывалі для партызан зброю, боепрыпасы і медыкаменты, выратавалі ад фаш. расправы каля 150 парт. і сав. работнікаў, ваеннапалонных. Выконвалі заданні партыз. атрада, потым партызанскай брыгады «За Радзіму», з 1943 партызанскай брыгады імя Г. К. Жукава. Трымалі сувязь з Азяра́ўскім камсамольска-маладзёжным падполлем.

**БРА́СЛАЎСКІ ГІСТО́РЫКА-КРАЯЗНА́ЎЧЫ МУЗЕ́Й.** Заснаваны ў 1984 у Браславе на базе школьнага музея. Размешчаны ў доме, пабудаваным у пач. 1930-х гадоў для прыватнай друкарні. Мае 6 экспазіцыйных залаў (пл. экспазіцыі 147,5 м$^2$), больш за 10,5 тыс. экспанатаў асн. фонду (1993). У археал. аддзеле — прылады працы эпохі неаліту, бронзавага веку, матэрыялы даследаванняў гарадзішчаў жал. веку, курганных могільнікаў, паселішчаў перыяду Полацкага княства, у т. л. комплекс жаночых упрыгожанняў 11 ст. з курганнага могільніка Укля, крыжыкі-энкалпіёны, полая падвеска-конік, косці жывёл з выявамі з гарадзішча Маскавічы (12—13 ст.), ляпны гаршчок 10 ст. з Браслава, прасліца 11—13 ст. з надпісам «з Дрысвят». Адлюстраваны гісторыя Браслаўшчыны часоў ВКЛ і Рэчы Паспалітай, падзеі Айч. вайны 1812, паўстання 1863—64. Сярод экспанатаў кафля і зброя з замка ў Іказні, кафля, посуд

і манеты з сярэднявяковай Друі. Экспануюцца матэрыялы пач. 20 ст., перыяду ўваходжання Зах Беларусі ў склад Польшчы. Этнаграфічны матэрыял прадстаўлены комплексам «Куток сялянскай хаты канца 19 — пач. 20 ст.», вырабамі ткацтва, ганчарства, кавальства, разьбярства, пляцення, нар. музычнымі інструментамі. У зале «Вялікая Айчынная вайна на Браслаўшчыне» экспанаты пра дзейнасць падп. арг-цый, партызанскіх атрадаў і брыгад, пра вызваленне краю ад ням.-фаш. захопнікаў. Асобныя экспазіцыі прысвечаны краязнаўцам Браслаўшчыны, ураджэнцу Браслаўшчыны бел. мастаку П. *Сергіевічу*, медыку С. Нарбуту (сын гісторыка Т. *Нарбута*). У фондах музея захоўваюцца поўныя калекцыі даследаванняў неалітычнай стаянкі Дубкі (1988), гарадзішчаў Маскавічы (1988), Браслава (1989—90), Друсвят (1991), бескурганнага могільніка Пашавічы (1991). З 1989 праводзяцца навук.-краязнаўчыя канфер. «Браслаўскія чытанні». Пры музеі працуе нар. студыя самадзейнай творчасці.

*К. С. Шыдлоўскі*

**БРА́СЛАЎСКІ МАНАСТЫР БАЗЫЛЬЯ́Н.** Існаваў з 15 ст. (?) да 1827. Знаходзіўся за 4 км на ПнУ ад Браслава, на адным з астравоў пад назвай Манастыр на воз. Несціш, на зах. ускраіне в. Шавуры. Першапачатковa быў праваслаўны. Каля 1500 жонка вял. кн. ВКЛ Аляксандра Алена ахвяравала манастыру 15 сялян з зямлей, сенажацямі, млынам і адным з азер. У 16—17 ст. ахвяраванні манастыру зрабілі Масальскія, Тышкевічы і інш., пасля чаго манастыр валодаў больш як 1 тыс. дзесяцін зямлі, вёскамі Агоні, Дубкі, Княжына, Літоўшчына, Маскаўцы, Мутураўшчына, Солакаўшчына, Татараўшчына і інш. У даравальнай грамаце старосты Я. Тышкевіча ў 1631 названы манастыром Благавешчання Прасвятой Багародзіцы. 5.7.1633 Уладзіслаў IV пацвердзіў усе ўладанні манастыра і граматай ад 14.3.1635 з шэрагам інш. манастыроў перадаў яго уніяцкаму ордэну *базыльян*. Манастырскі комплекс складаўся з драўляных царквы Святой Прачыстай і некалькіх гасп. і жылых будынкаў, якіх па картаграфічных крыніцах 19 ст. было 3 Востраў злучаўся з берагам мостам (у адным з дакументаў 1728 іх было 2). На невялікім суседнім востраве пад назвай Святы быў пастаўлены крыж, які лічыўся цудадзейным. На манастырскіх могілках побач з в. Шавуры існавала царква Святога Юрыя (у 1852 разабрана), манастыру належала царква Святога Духа на Замкавай гары ў Браславе (у 1812 згарэла). У часы Паўночнай 1700—21 і Айчыннай 1812 войнаў манастыр быў разрабаваны. У 18 ст. манастыр прыйшоў у занепад. У 1827 закрыты, яго маемасць (52 валокі зямлі, 123 падданыя, 3397 руб. серабром) перададзены ва уніяцкі фундуш. У 1832 усе манастырскія будынкі на востраве знішчаны пажарам. Паводле падання, не загінуў у пажары абраз Багародзіцы, які зберагаецца ў Браслаўскім касцеле. У 19 — пач. 20 ст. на месцы існавання манастыра традыцыйна збіраліся паломнікі, наладжваліся фэсты. У 1864 востраў абследаваў археолаг і мастак Дз. Струкаў. Ён правеў раскопкі, зрабіў замалёўкі планаў падмуркаў манастырскіх будынкаў (захоўваюцца ў рукапісным аддзеле бібліятэкі Вільнюскага ун-та).

*Літ.*: Hedemann O. Historja powiatu Brasławskiego. Wilno, 1930.

*К. С. Шыдлоўскі*

**Браслаўскі гісторыка-краязнаўчы музей. Фрагмент этнаграфічнай экспазіцыі**

**Браслаўскі гісторыка-краязнаўчы музей. Фрагмент археалагічнай экспазіцыі**

**БРА́СЛАЎСКІ ПАВЕ́Т.** Існаваў на Беларусі з пач. 15 ст. да 1940. У складзе ВКЛ упершыню згадваецца ў пач. 15 ст. падчас ваен. дзейнасці Лівонскага ордэна супраць Літвы. У 15 — пач. 16 ст. уваходзіў у Віленскае ваяв. як буйное дзярж. уладанне пад раўназначнымі назвамі «павет», «намесніцтва», «дзяржава», «староства». Ахопліваў, верагодна, большую частку сучаснага Браслаўскага і меншыя часткі Міёрскага і Шаркоўшчынскага р-наў. На ПнЗ межаваў з Лівоніяй, на З — з воласцю *Друсвяцкага замка*, на Пд уздоўж р. Дзісна — з Мядзельскім пав. (пазней увайшоў у Ашмянскі пав.), на ПнУ і У — з *Полацкай зямлёй*, са складу якой, відаць, вылучыўся ў больш ранні час. Першым вядомым намеснікам вял. князя ў Б. п. з'яўляўся віленскі ваявода В. Манівід (памер у 1423), потым гэту пасаду займалі яго сын Я. Манівід (1443), Ю. Гетаўт (1452), І. Вяжэвіч (1452), Б. Саковіч (1466—74), П. Мантыгірд (1476—82), І. Ільініч (1486), Ю. Зяновіч (1492—1500), С. Забярэзінскі (1500—01). Пра ўнутр. становішча ў Б. п. на працягу 15 ст. звесткі практычна адсутнічаюць. Пазней, пры намесніку (старосце) І. С. Сапегу (1502—16), павет падзяляўся на шэраг валасцей, у т. л. Апескую, Гарадзішскую, Друйскую і Укольскую. У гэты час ішла актыўная раздача са складу Б. п. дзярж. сел прыватным асобам. У 1499 Сапега купіў на воз. Іказнь (Ікажня) уладанні дробных баяр, якія потым за кошт велікакняжацкіх падараванняў значна павялічыліся. Яны цягнуліся да полацкай мяжы, ахопліваючы воласць с. Пагост. У 1504 Сапегам быў закладзены *Ікazненскі замак*. У гэты перыяд вял. кн. Аляксандр падараваў Гарадзішскую вол. сваей жонцы Алене. Больш дробным уладальнікам у Б. п. належалі Ішчолна, Меры, Чарэсы і інш. Пасля І. С. Сапегі браслаўскім старостам быў яго сын П. І. Сапега (1517—47), потым С. Я. Скоп (1547—49), С. П. Кішка (1552—54), кн. І. Ц. Крошынскі (1554—58), Ю. Ю. Осцік (1558—79). Паводле адм. рэформы ВКЛ 1565—66 Б. п. атрымаў органы шляхецкага самакіравання — сеймік, земскі суд і інш. У дадатак да пасады старосты, які разам з суддзей гродскім і пісарам ажыццяўляў замкавы суд, былі ўтвораны пасады земскіх суддзі, падсудка і пісара, павятовых маршалка і падкаморага. Першым маршалкам Б. п. быў кн. Л. Б. Свірскі, падкаморым — Крошынскі, земскім суддзей — І. Баса. У выніку адм. рэформы тэр. павета значна павялічылася. Да першапачатковага Браслаўскага староства былі далучаны мястэчкі Друя і Вята на Зах. Дзвіне, а таксама Відзы, Друсвяты і інш. уладанні на ПнУ сучаснай Літвы. Буйнейшымі землеўладальнікамі Б. п., акрамя Сапегаў, былі Радзівілы, Нарушэвічы і інш. У новых межах Б. п. у складзе Віленскага ваяв. праіснаваў да 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793), калі ўсх. яго частка была далучана да Расійскай імперыі (пазней гэта частка ўвайшла ў Дзісенскі пав. Віленскай губ.). Астатняя частка Б. п. была пераўтворана ў *Браслаўскае ваяводства*, якое праіснавала да 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795). У складзе Расійскай імперыі Б. п. уваходзіў у Віленскую губ., з 1797 у Літоўскую, з 1801 зноў у Віленскую губ.

Пл. 5555 кв. вёрст, насельніцтва 210 689 чал. (1897). У 1836 Б. п. перайменаваны ў *Новааляксандраўскі павет,* які з 1843 знаходзіўся ў складзе Ковенскай губ. Пастановай Савета Міністраў Польшчы ад 6.4.1922 Б. п. адноўлены і ўключаны ў склад Віленскай зямлі (з 1925 ваяводства). У яго ўваходзілі гміны Браслаўская, Відзская, Дрысвяцкая, Опсаўская, Плюская, Рымшанская, Слабадская і Смолвенская; Дукштанская гміна перададзена ў Свянцянскі пав. У чэрв. 1925 у склад Б. п. з Дзісенскага пав. перададзены гміны Богінская, Друйская, Ёдская, Леампольская, Мёрская, Новапагосцкая, Перабродская, Чарэская. У лют. 1927 Чарэская гміна скасавана, яе тэр. ўключана ў Ёдскую і Новапагосцкую гміны. Усяго ў складзе павета, які займаў пл. 4218 км², было 16 гмін, дзе пражывалі 124 909 чал. (перапіс 1919). У пач. 2-й сусв. вайны Б. п., як і ўся Зах. Беларусь, па дамоўленасці СССР з Германіяй заняты войскамі Чырв. Арміі. У ліст. 1939 павет уключаны ў склад БССР, з 4.12.1939 уваходзіў у *Вілейскую вобласць.* Б. п. скасаваны 15.1.1940. На яго тэр. ўтвораны шэраг раёнаў, у т. л. *Браслаўскі раён.*

*Літ.:* Hedemann O. Historja powiatu Brasławskiego. Wilno, 1930; Wojtkowiak Z. Litwa Zawilejska w XV i pierwszej połowie XVI w. Poznań, 1980. S. 90—99.

*М. І. Камінскі, В. Л. Насевіч.*

**БРА́СЛАЎСКІ РАЁН.** На ПнЗ Віцебскай вобл. Пл. 2,2 тыс. км². Утвораны 15.1. 1940. У Б. р. 35,7 тыс. ж. (1989; разам з Браславам), 702 населеныя пункты, у т. л. г. *Браслаў* (цэнтр раёна), гар. пасёлкі *Відзы* і *Друя;* 12 сельсаветаў: Ахрэмавіцкі, Відзскі, Далёцкі, Дрысвяцкі, Друйскі, Зарацкі, Казянскі, Мяжанскі, Опсаўскі, Плюскі, Слабодкаўскі, Цяцеркаўскі. Большая частка р-на занята Браслаўскай градой, на ПдУ Дзісенская нізіна. Рэкі Зах. Дзвіна і яе прытокі Дзісна (з Дрысвятай) і Друйка. Азёры займаюць 10 % тэр. раёна, найбольшыя Дрывяты, Снуды, Струста (уваходзяць у групу Браслаўскіх азёр), Богінскае, Дрысвяты (на мяжы з Літвой) і Рычы (на мяжы з Латвіяй). Пад лесам 25 % тэрыторыі. На тэр. раёна 3 заказнікі рэсп. значэння (Міжазёрны ландшафтны, азёрны Рычы, журавінны Забалацце). Найважнейшыя аўтадарогі ад Браслава на Шаркоўшчыну, Друю, Паставы, Даўгаўпілс. На тэр. раёна канцавы пункт чыг. Варапаева — Друя.

Утвораны ў складзе Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 раён акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі тут каля 9,6 тыс. сав. грамадзян, спалілі разам з насельніцтвам вёскі Лабэцкія і Рэпаўшчына (пасля вайны не адрадзіліся), Баравыя і Стайкі. На тэр. раёна дзейнічалі партыз. брыгады «Спартак», імя Г. К. Жукава, «За Радзіму», Браслаўскія і Відзскія падп. райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ, Аэяраўскае камсамольскае падполле. Раён вызвалены ў пач. ліп. 1944 часцямі 1-га Прыбалтыйскага фронту з удзелам партыз. атрадаў. З 20.9.1944 Б. р. у складзе Полацкай, з 8.1.1954 — Маладзечанскай, з 20.1.1960 — Віцебскай абласцей. 20.1.1960 да Б. р. далучаны Відзскі р-н, 18.3.1963 — невял. паўн.-зах. частка (разам з г. п. Друя) Міёрскага р-на. У гаспадарцы раёна асн. месца займае с.-г. вытворчасць. Тут 20 калгасаў і 4 саўгасы (1991), якія спецыялізуюцца на мяса-малочнай жывёлагадоўлі, ільнаводстве і свінагадоўлі; асобныя гаспадаркі займаюцца авечкаі рыбагадоўляй. Найб. буйныя прамысл. прадпрыемствы: кансервава-агароднінасушыльны з-д, вытв. аб'яднанне будматэрыялаў, ільнозавод, рыбазавод, ляcгас (Браслаў), маслазаводы і хлебазаводы (Браслаў, Відзы), спіртзавод (в. Відзы-Лаўчынскія), цагельныя з-ды (Відзы, в. Друйск), торфабрыкетны з-д (в. Ахрэмаўцы), 3 гідраэлектрастанцыі на рэках Дрысвята і Друйка. На тэр. раёна Відзскае СПТВ механізацыі сельскай гаспадаркі, Друйскае ПТВ механізацыі меліярацыйных работ, 16 сярэдніх, 21 васьмігадовая (у т. л. школа-інтэрнат), 13 пачатковых, дзіцяча-юнацкая спартыўная і 5 музычных школ, 40 дашкольных дзіцячых устаноў, Дом піянераў і школьнікаў; 43 клубныя і 53 бібліятэчныя ўстановы, *Браслаўскі гісторыка-краязнаўчы музей,* нар. тэатр Браслаўскага ГДК, нар. хор Опсаўскага сельскага клуба, нар. самадзейная студыя пры Браслаўскім гісторыка-края-

знаўчым музеі; 47 кінаўстановак (у т. л. 1 перасоўная), 6 бальніц, 31 фельчарска-акушэрскі пункт, абл. бальніца ў в. Слабодка, урачэбная амбулаторыя ў в. Казяны, санаторый «Браслаў», турысцка-экскурсійны комплекс «Браслаўскія азеры», спартыўны лагер «Чайка». Раенная газ.— «Браслаўская звязда»

Найб. значныя археал. помнікі: Ахрэмаўцы (Бяльмонты), Браслаў, Вусце, Друя, *Дрысвяты,* Дубкі, Зазоны, Замошша, Краснагорка, Лукшы, *Маскавічы, Опса,* Паснуддзе, Рацкі Бор (Майшулі-Шалтэні) *Рацюнкі*, Слабодка. Магілкі рус. воінаў, што загінулі ў 1-ю суса. вайну (в. Богіна); брацкія магілы сав. воінаў і партызан, якія загінулі ў Вял Айч вайну, у вёсках Ахрэмаўцы, Замошша, Зарачча, Казяны, Опса; магіла сав. воіна Р. С. Эфрона — сына паэтэсы М. Цвятаевай (в. Струнеўшчына); магілы ахвяр фашызму ў вёсках Баравыя, Далекія, Дзеткаўцы, Казяны, Опса, Пагошча, каля вёсак Глыбаўшчына, Замошша, Стаўрова. Помнікі землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, у вёсках Баруны, Богіна, Быстрымаўцы, Вайнюнцы, Далекія, Дзеткаўцы, Дуброўка, Ждэгелі, Завер'е, Карасіна, Опліса 1-я, Опса, Плюсы, Пагошча, Цяцеркі, Герою Сав. Саюза І. М. Валчкову ў в. Плюсы, піянерцы-партызанцы В. К. Максімовіч у в. Замошша, курган Бессмяротнасці на ўшанаванне памяці жыхароў в. Стайкі (за 7 км ад в Бабылі), на месцы бою 14 7 1944 і гібелі І. М. Валчкова (в. Алехны), на месцах базіравання Відзскага падп. райкома КП(б)Б і штабоў партыз. брыгад «За Радзіму», «Спартак» (в. Дуброўка), Браслаўскага падп. райкома КП(б)Б і партыз. брыгады імя Г. К. Жукава (за 6 км ад в. Замошша). Мемарыяльная дошка ў гонар падп. камсамольскай арг-цыі на будынку школы ў в Ахрэмаўцы. Сярод помнікаў архітэктуры вадзяны млын (канец 18 — 1-я пал. 19 ст., в. Зарачча), сядзібы (канец 18 — пач. 19 ст., в. Відзы-Лаўчынскія; пач. 20 ст., в. Опса), капліца (сярэдзіна 19 ст., а. Ахрэмаўцы), касцёлы Сэрца Ісуса (1903, в. Слабодка), Петрапаўлаўскі (1929, в Дрысвяты), Станіслаўскі (1-я пал. 20 ст., в. Далёкія), у вёсках Барадзінічы (пач. 20 ст.), Іказнь, Опса, Пеліканы, Плюсы (усе пач. 20 ст.), цэрквы Мікалаеўская (1905, в Ікaзнь), Пакроўская (пач. 20 ст., в Мінкавічы), у вёсках Богіна (канец 19 ст., у інтэр'еры памятныя дошкі ў гонар рус. воінаў, што загінулі ў 1-ю сусв. вайну), Казяны, Кірыліна (абедзве пач. 20 ст.).

У раене нарадзіліся адзін з кіраўнікоў паўстання 1794 у Польшчы, на Беларусі і ў Літве ген. Т. А. Ваўжэцкі, удзельніца рэв. руху ў Расіі З. І. Лілліна, дзеяч рэв. руху ў Зах. Беларусі Ф Д. Манцэвіч, гісторык У М. Беняшэвіч, этнограф М Пецюкевіч, пісьменнік Я. Федараў, мастак П. Сергіевіч.

*Літ* Hedemann O. Historja powiatu Brasławskiego Wilno, 1930, Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі Віцебская вобл Мн, 1985. С 135—156, Шидловский К С Браславские озера Путеводитель по зоне отдыха Браслав Мн, 1989

*К С Шыдлоўскі*

**БРАТА́ННЕ,** сацыяльна-паліт. з'ява, якая адбывалася ў гады 1-й сусв. вайны паміж салдатамі варожых армій і мела антываен. накіраванасць. На рус.-германскім фронце Б. адбываліся ў 1915—16, сталі вельмі пашыранымі пасля Лют. рэв. 1917. На *Заходнім фронце 1915—18* да сярэдзіны крас. 1917 Б. адбываліся стыхійна і зводзіліся пераважна да абмену лістоўкамі і рэчамі салдацкага побыту. Першыя арганізаваныя масавыя Б. адбыліся 18 4(1.5).1917 На ўчастку фронту паміж азерамі Нарач і Вішнеўскае, які займала 55-я пяхотная дывізія 3-й арміі, Б. ў гэты дзень узначаліў чл. Петраградскага Савета бальшавік Дз. П. Міхайлаў. Б. адбыліся і на інш. участках Зах. фронту. Каманданне праследавала тых, хто братаўся: разганяла іх ружэйна-кулямётным агнём, абстрэламі з артылерыі, аддавала пад суд. Для дыскрэдытацыі Б. была разгорнута кампанія паклепу на іх удзельнікаў. У час падрыхтоўкі наступлення на фронце ў чэрв. 1917, ва ўмовах барацьбы з Б. яно пайшло на спад. З новай сілай пашырылася пасля разгрому *карнілаўшчыны* У вер.— кастр. 1917 Б. вызначаліся масавасцю, арганізаванасцю, вострай паліт і антываен. накіраванасцю. Толькі ў кастр. на розных участках Зах. фронту адбылося каля 30 выпадкаў Б., якія былі спланаваны і праходзілі са згоды салдацкіх камітэтаў і з удзелам іх членаў. Пасля Кастр рэвалюцыі і звароту У. І. Леніна 9(22) 11.1917 да ўсіх вайск. камітэтаў, салдат і матросаў з заклікам узяць справу міру ў свае рукі Б. на Зах. фронце прынялі паўсюдны характар і з'явіліся пралогам заключэння перамір'я на рус.-германскім фронце. Часовы дагавор аб перамір'і на Заходнім фронце быў падпісаны ўжо 21.11(4.12).1917. Па патрабаванні дэлегацыі Зах фронту ў гэты дагавор уключаны пункт аб Б., у адпаведнасці з якім салдатам абодвух бакоў дазвалялася сустракацца ў дзенны час.

*Літ* Минц И И История Великого Октября М, 1968 Т. 2. С 404—406, Голуб П А. Партия, армия и революция М, 1967 С 39—40; Ивашин В Г Большевики Белоруссии и Западного фронта

**Братанне** рускіх і нямецкіх салдат каля Агінскага канала 2.12 1917

БРАСЛАУСКІ РАЕН

в борьбе за осуществление ленинского Декрета о мире. Мн., 1972. С. 233—258; Смольянинов М. М. Революционное сознание солдат Западного фронта в 1917 г. Мн., 1991. С. 50—51, 78—86, 112—116, 239—241. *М. М. Смальянінаў.*

**БРА́ТНІ САЮЗ ЛІТО́ЎСКАЙ МО́ЛАДЗІ,** Саюз літоўскай моладзі, Саюз свабодных братоў, тайная арг-цыя, якая існавала на Беларусі і Літве ў 1846—49. Заснавана ў Вільні збяднелымі шляхціцамі братамі Ф. і А. Далеўскімі. Першапачаткова асн. намаганні накіроўваў на яднанне вучнёўскай моладзі, падрыхтоўку яе на ўзор *філаматаў* і *філарэтаў* да доўгатэрміновай працы па адраджэнні маралі і духоўнасці грамадства. Меў за мэту ўсталёўваць справядлівасць, павагу да людзей незалежна ад іх веравызнання і нацыянальнасці, садзейнічаць паляпшэнню становішча сялян і гар. беднаты, спрыяць нац.-вызваленчай барацьбе, поспех якой увязваўся з агульнадэмакр. пераўтварэннямі ў Расіі і Польшчы. У 1848 у саюз увайшлі разначынцы, аднадворцы, дробная шляхта, рамеснікі. Пад уплывам рэв. падзей у Зах. Еўропе і ў сувязі са зменамі ў сац. складзе арг-цыі яе праграма набыла больш радыкальны характар. Найбольш актыўную дзейнасць саюз разгарнуў у канцы 1848 — сак. 1849, калі вялася актыўная падрыхтоўка антыўрадавага паўстання, прызначанага на 5.4.1849. Ён наладзіў супрацоўніцтва з канспіратыўнай арг-цыяй, якая дзейнічала ў Мінску. Члены саюза вялі рэв. агітацыю ў Гродне, Лідзе, Навагрудку, Слоніме і інш. гарадах Беларусі і Літвы, спрабавалі залучыць на свой бок салдат Бабруйскай крэпасці і Мінскага гарнізона. У фальварку Бараўляны пад Мінскам была наладжана адліўка куль. Аднак 27 сак., назадоўга да намечанага тэрміну паўстання, пачаліся арышты. Да следства прыцягнута каля 200 чал. Кіраўнікі і найб. актыўныя чл. саюза прыгавораны да пакарання смерцю, замененага катаржнымі работамі ад 10 да 15 гадоў, астатнія засуджаны на розныя тэрміны катаргі або аддадзены ў салдаты. Рэпрэсіі не прымусілі членаў саюза здрадзіць сваім ідэалам. Многія з іх удзельнічалі ў *паўстанні 1863—64.*

*Літ.:* Смирнов А. Ф. Революционные связи народов России и Польши, 30—60 годы XIX в. М., 1962; Мохнач Н. Н. Идейная борьба в Белоруссии в 30—40-е годы XIX в. Мн., 1971; Гісторыя Беларускай ССР. Мн., 1972. Т. 1. С. 590—591; Fajnhaus D. Ruch konspiracyjny na Litwie i Białorusi, 1846—1848. Warszawa, 1965; Merkys V. Dalevskių šeima. Vilnius, 1967. *Н. М. Махнач.*

**«БРА́ТСКИЙ ЛИСТО́К»,** штотыднёвая газета кансерватыўна-ахоўніцкага кірунку, орган Мінскага праваслаўнага брацтва. Выдавалася з 18.8.1907 у Мінску на рус. мове, апошні вядомы нумар датаваны студз. 1910. Грунтавалася на афіц. прынцыпах «самадзяржаўя, праваслаўя і народнасці». Асноўнай задачай абвяшчала «ўздым рэлігійна-нацыянальнай самасвядомасці рускага насельніцтва (пад якім разумела гал. чынам беларусаў — рэд.) у Паўночна-Заходнім краі». У газеце пераважалі публікацыі на рэліг. тэмы. З пазіцый афіц. праваслаўя рабіла агляды айчыннай гісторыі: «Бегла па старонках рускай гісторыі» (27.10.1907), *«Нашы продкі»* (20.1, 7 і 18.2.1909). Тэндэнцыйна асвятляла пытанні гісторыі праваслаўя ва ўзаемаадносінах яго з каталіцызмам: «Праваслаўе як першапачатковая форма хрысціянства ў Польшчы» (7.9. 1907), «Праваслаўе і каталіцтва» (20.1 — 31.12.1909), «Праваслаўная Русь за мяжой» (29.5.1909), «Дзень святкавання ўз'яднання уніятаў з праваслаўнай царквою» (11.7.1909). Змяшчала гіст. даведкі пра цэрквы, манастыры, капліцы: «Мінскі мужчынскі Св. Духаў манастыр» (13.9.1907), «Старажытная Прабражэнская царква ў г. Мінску» (22.9. 1907), «Мінскі гарадскі Кацярынінскі сабор» (27.9.1907); апісанні рэліг. свят, звычаяў, абразоў і інш. Друкавала гіст. апавяданні, паданні, лекцыі: «Пушкін пра Георгія Каніскага» (6.10.1907), «Помнікі даўніны» (лекцыя С. А. Масальскай-Сурынай; 24.3.1909). У газеце асвятляліся выбары ў 3-ю Дзярж. думу, дзейнасць брацтва. Змяшчала аб'явы. *А. К. Галубовіч.*

**БРА́ТЧЫКАЎ** Генадзь Іванавіч (10.3. 1914, в. Міхееўка Кудымкарскага р-на Пермскай вобл.— 10.12.1944), удзельнік партыз. руху ў Брэсцкай і Гродзенскай абл. у Вял. Айч. вайну. Герой Сав. Саюза (1945). У сак. 1943 на чале групы разведчыкаў закінуты ў тыл ворага, дзейнічаў у раёне Гомеля, Чарнігава, Шчорса, Ноўгарада-Северскага. Са снеж. 1943 група пад кіраўніцтвам маёра Б. вяла разведку ў Баранавічах, Ваўкавыску, Слоніме, Бярозе, Ружанах, перадала ў штаб 1-га Бел. фронту больш за 450 данясенняў. З вер. 1944 разведчыкі дзейнічалі ў польскіх гарадах Млава, Плонск, Рыпін, Цэханаў. Загінуў у баі.

**БРА́ТЧЫНА,** 1) калектыўнае частаванне ў складчыну ў час святкавання сялянамі грамадскай свечкі, якую рабілі з воску, сабранага ўсімі абшчыннікамі. Яе ставілі ў кадушку, напоўненую жытам, спявалі песні з пажаданнем добрага ўраджаю, дастатку ў гаспадарцы. Пад уплывам хрысціянства Б. прымеркавалі да дня зімовага Міколы (6 снеж. па ст. ст.), які нібыта садзейнічаў добраму ўраджаю. Частаванне, як і само свята, мела абшчынны характар. У бел. вёсцы бытавала да канца 19 ст. 2) Грамадская трапеза чл. *брацтваў праваслаўных* (братчыкаў) на Беларусі ў 16—18 ст. Наладжвалася ў складчыну ў асобныя святочныя дні.

*Літ.:* Праздники и обряды в Белорусской ССР. Мн., 1988. *М. Ф. Піліпенка.*

**БРА́УН** (Броун, Brown) Джордж (у манастве Юзаф; 1.6.1801—31.12. 1879), гісторык, бібліёграф, педагог. Сын англічаніна Джона Брауна (прыдворнага лекара імператрыцы Марыі Фёдараўны — жонкі рускага цара Паўла I) і італьянкі Марыі Росі. Нарадзіўся на караблі ў Балтыйскім моры. Вучыўся ў езуіцкіх калегіумах Пецярбурга і Полацка, на філас. ф-це Полацкай езуіцкай акадэміі. У 1817 уступіў у ордэн езуітаў. З 1820 пасля іх выгнання з Расійскай імперыі выкладаў тэалогію ў езуіцкіх калегіумах Цярнопаля і Львова. Сваё творчае жыццё прысвяціў вывучэнню гісторыі ордэна езуітаў на Беларусі і ў Польшчы, матэрыялы для гэтага шукаў у архівах Рыма, Вены, Львова і інш. У выніку шматгадовай працы стварыў манументальны біябібліяграфічны слоўнік «Бібліятэка пісьменнікаў польскай часткі таварыства Ісуса» (на лац. мове), у які ўвайшлі біяграфіі і бібліяграфія прац езуітаў Беларусі і Польшчы за 1564—1852 па гісторыі, мовазнаўстве, літаратуры, філасофіі, педагогіцы, тэалогіі, праве і інш. Слоўнік выдадзены ў 1856 у шматтомнай серыі А. Бакера «Бібліятэка пісьменнікаў таварыства Ісуса» (выходзіла ў 1853—56 у Льежы, Бельгія). Праца Б. перакладзена на польск. мову членам ордэна езуітаў, былым студэнтам філас. ф-та Полацкай езуіцкай акадэміі У. Кяйноўскім [выд. ў 1861 у пазнанскім часопісе «Przegląd Poznański» («Пазнанскі агляд»), у 1862 у Познані асобным выданнем]. У 1861—70 Б. супрацоўнічаў з часопісам «Tygodnik katolicki» («Каталіцкі штотыднёвік»), у якім друкаваў артыкулы па гісторыі Беларусі. Напісаў на лац. мове гісторыю езуітаў на Беларусі (не апублікавана, рукапіс захоўваецца ў архіве езуітаў у Рыме).

*Тв.:* Biblioteka pisarzów assystencyi polskiej Towarzystwa Jezusowego. Poznań, 1862.

*Літ.:* Załęski S. Jezuici w Polsce porózbiorowej. Kraków, 1906. Cz. 2. S. 1195—1196. *В. Ф. Шалькевіч.*

**БРАЎКО́ВІЧ** Фадзей Аляксеевіч (1894, в. Слабодка Аршанскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Шклоўскі р-н — ?), савецкі партыйны і дзярж. дзеяч. Скончыў Аршанскае гар. вучылішча. З 1915 у арміі, з 1918 у Чырвонай Арміі. Удзельнік Кастр. рэвалюцыі 1917, 1-й сусв. і грамадз. войнаў. У 1918—27 на ваен., парт. і сав. рабоце ў Рагачоўскім пав., нарком фінансаў БССР, старшыня Полацкага акр. к-та КП(б)Б. З 1927 пастаянны прадстаўнік урада БССР пры СНК СССР у Маскве, з 1928 саветнік паўпрэдства СССР у Варшаве. З 1933 дырэктар Белдзяржвыдавецтва ў Мінску, потым на гасп. рабоце. Чл. ЦК КП(б)Б і ЦВК БССР у 1924—35. У 1936 беспадстаўна рэпрэсіраваны і засуджаны на 10 гадоў зняволення ў папраўча-працоўны лагер, дзе і памёр. У 1956 пасмяротна рэабілітаваны. *Э. А. Карніловіч.*

**БРА́ЦКАЕ КНІГАДРУКАВА́ННЕ,** выдавецкая дзейнасць *брацтваў праваслаўных* на Беларусі і Украіне ў 16—18 ст. Брацтвы адыгралі вял. ролю ў развіцці пэўных сфер культуры, л-ры, пісьменства, музыкі (спеваў), іканапісу, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, у дэмакратызацыі і секулярызацыі школьнай сістэмы і адукацыі. Дзякуючы дзейнасці *Ф. Скарыны, Брэсцкіх друкарняў, Нясвіжскай друкарні,* І. *Фёдарава,* П. *Мсціслаўца* і іх паслядоўнікаў на

Беларусі і ў Літве быў назапашаны значны тэхн. вопыт. Друкарскае майстэрства, у т. л. гравёрнае, стала параўнальна даступнай галіной рамеснай вытворчасці. Узнікненне шэрага прыватных друкарняў на Беларусі і ў Літве ў 1590-я гады было сведчаннем фарміравання даволі шырокага кніжнага рынку, росту попыту на друкаваную прадукцыю. Аднак пасяпахова дзейнічала тады толькі адна вял. друкарня, якая актыўна выкарыстоўвала кірылічныя шрыфты — друкарня *Мамонічаў* у Вільні. Грамадска-паліт. пазіцыя Мамонічаў, іх сувязі з заможнымі слаямі Вільні і велікакняжацкай канцылярыяй, у прыватнасці Львом Сапегам, дазволілі дамагчыся афіц. прызнання іх дзейнасці. Гэта была адзіная бел. друкарня 16—18 ст., якая 3 разы атрымлівала каралеўскія прывілеі на права выпуску царк.-рэліг. і свецкіх выданняў, у т. л. Статутаў ВКЛ. Яна выконвала заказы і на выданне л-ры для брацтваў.

Магчымасць прыступіць да стварэння першай уласнай брацкай друкарні дало арганізацыйнае афармленне ў 1584 бел. Траецкага (пазней Святадухаўскага) брацтва ў Вільні. У статуце брацтва, зацверджаным у 1589, прадугледжвалася будаўніцтва школ і друкарні для выдання кніг на грэч., слав., «рус.» і польскай мовах.

Пытанні арганізацыі Б. к. выносіліся на разгляд брэсцкіх сабораў 1590, 1591, 1594. Саборныя пастановы прадпісвалі манапалізацыю бел. і ўкраінскага Б. к. ў Віленскай і Львоўскай друкарнях, устанаўленне епіскапальнай цэнзуры, арганізацыю камісіі праўшчыкаў-карэктараў, фінансаванне выдавецкай дзейнасці за кошт сродкаў, сабраных ва ўсіх епархіях Кіеўскай мітраполіі. Праваслаўным брацтвам удалося адстаяць права выдаваць кнігі рознага зместу. У саборнай пастанове 1591 адзначалася, што брацтвы ў сваёй выдавецкай дзейнасці павінны кіравацца дараванай граматай 1589 канстанцінопальскага патрыярха. Яна дазваляла львоўскаму Успенскаму праваслаўнаму брацтву друкаваць не толькі царк., але і розныя навучальныя і гіст. выданні, у т. л. «хроннки снреч летописцы». Грамадска-паліт. барацьба, якая абвастрылася ў сярэдзіне 1590-х гадоў, пераход значнай часткі праваслаўнай іерархіі на бок уніі ператварылі ўсе пастановы брэсцкіх сабораў у намінальныя. Пытанні далейшай арганізацыі Б. к., яго фінансавання, збыт кніг сталі ў значнай ступені ўнутр. справай брацтваў.

У сярэдзіне 1590-х гадоў віленскае праваслаўнае брацтва ўзначаліў актыўны праціўнік уніі, дзеяч бел. і укр. асветы, пісьменнік-палеміст С. *Зізаній*. Пад яго кіраўніцтвам Віленская друкарня ў 1595—96 выпусціла не менш за 11 выданняў (больш за 2200 арк.). Да гэтага часу толькі Пражская друкарня Скарыны набліжалася да такога ўзроўню інтэнсіўнасці выдавецкай дзейнасці. Пасля *Брэсцкай уніі 1596* брацкая друкарня ў Вільні на працягу некалькіх гадоў амаль бяздзейнічала. Сучаснай бібліяграфіі невядомы кірылічныя выданні гэтай друкарні 1597—1607, за выключэннем «Часоўніка» (зберагаецца ў Оксфардскай б-цы), які па некаторых мастацка-арнаментальных адзнаках, напр. па выкарыстанні ініцыялаў віленскай друкарні Скарыны, можа быць аднесены да выданняў гэтага брацтва. У крыніцах 17 ст. ўпамінаецца «Катэхізіс», надрукаваны брацтвам каля 1600. Некалькі палемічных выданняў, выпушчаных брацтвам на польскай мове ў 1608—10 (ананімныя выданні *М. Смятрыцкага*), прывялі да закрыцця друкарні, арышту яе вядучых дзеячаў, у т. л. гал. натхніцеля і арганізатара, рэктара брацкай школы Л. *Карповіча*.

З 1611 стала дзейнічаць брацкая друкарня ў мяст. Еўе (гл. *Еўінская друкарня*). Яе шляхецкая юрысдыкцыя ў пэўнай ступені ахоўвала брацтва ад умяшання уніяцкага духавенства, гаспадарскай і магістрацкай адміністрацыі ў справы друкарні. З 1618 да сярэдзіны 17 ст. брацтва выпускала свае выданні то ў Вільні, то ў Еўі. Амаль усе брацкія выданні таго часу друкаваліся з выкарыстаннем адных і тых жа мастацка-арнаментальных матэрыялаў і шрыфтоў. Вядомыя дзеячы Б. к. таго часу — Самуіл Рагаля і Гаўрыла Івановіч. Друкарня віленскага брацтва (Вільня — Еўе) была найбуйнейшай у гісторыі бел. Б. к. У 1652 яна спыніла сваю дзейнасць.

Да ліку брацкіх можна аднесці *Куцеінскую друкарню*, актыўны ўдзел у рабоце якой бралі магілёўскія і аршанскія братчыкі, хоць каралеўскія і велікакняжацкія прывілеі, якія б пацвярджалі правы на друкарню аршанскага брацтва, не выяўлены. Значную ролю ў арганізацыі кнігадрукавання ў Куцейне і Магілёве адыграў магілёвец С. *Собаль*. Кіраваў друкарняй член магілёўскага Богаяўленскага праваслаўнага брацтва ігумен І. Труцэвіч — аўтар шматлікіх прадмоў да куцеінскіх выданняў.

У 1594—1608 перапынілася або аслабла дзейнасць гал. у тыя часы брацкай друкарні ў Львове.

Канец 16 — сярэдзіна 17 ст.— асн. перыяд у дзейнасці бел. Б. к., калі поўнасцю раскрылася яго культ. і грамадска-паліт. значэнне. Брацкія друкары неаднаразова падкрэслівалі сваё імкненне служыць «рускому» народу, распаўсюджваць свае выданні на ўсе расійскія краіны (тэрмін «Расія» ў Б. к. канца 16 — 1-й пал. 17 ст. звычайна быў адэкватны тэрміну «Русь», што азначаў увесь усх.-слав. этнас ВКЛ). Адначасова бел. і ўкр. кніжнікі адрознівалі «большую Россию, то ест Москву». Сацыяльная аснова Б. к. ў канцы 16 — 1-й пал. 17 ст. значна пашырылася. Крыніцы адносна поўна дазваляюць меркаваць пра сац. склад 2 найб. буйных бел. праваслаўных брацтваў, паколькі захаваліся рэестры гэтых арганізацый. Галоўным бел. праваслаўным брацтвам у канцы 16—17 ст., якое адыгрывала першаступенную ролю ва ўсёй грамадска-паліт., царкоўна-рэліг. і асветніцкай дзейнасці антыуніяцкай апазіцыі, было віленскае Траецкае (з пач. 17 ст.— Святадухаўскае). Брэсцкая унія 1596 выклікала раскол у віленскім брацтве, ад яго адышла большая частка шляхты, гар. патрыцыяту, што істотна дэмакратызавала склад брацтва. У магілёўскім Богаяўленскім брацтве ў 1-й пал. 17 ст. моцныя пазіцыі займалі члены гар. магістрата, купецтва, якія актыўна ўдзельнічалі ў гандлі з Масквой і інш. рус. гарадамі. У практычнай дзейнасці буйных бел. брацтваў вядучую ролю адыгрывала праваслаўнае мяшчанства, якое выступала ў абарону бел. культуры, супраць каталіцкай экспансіі і уніі. Гэтыя ж слаі насельніцтва былі асн. адрасатам брацкіх выданняў. Праваслаўныя брацтвы збіралі сродкі для фінансавання выдавецкай і грамадска-паліт. дзейнасці з многіх гарадоў і мястэчкаў. Б. к. адлюстравала рэнесансавыя і рэфармацыйныя тэндэнцыі, якія ў значнай меры выявіліся на фоне сярэдневяковай культ. спадчыны. Яны адчувальныя ў змесце некаторых кніг, прадмовах, афармленні. Брацкія выдаўцы арыентаваліся на стараж.-рус., стараж.-бел. (у больш шырокім плане — усх.-славянскую) культуру. Аднак яны ў пэўнай меры ўспрынялі і некаторыя філас. светапоглядныя ідэі антычнасці, ранняга хрысціянства.

Агульную жанравую структуру Б. к. ў канцы 16 — 1-й пал. 17 ст. можна вызначыць наступным чынам: літургіка, статуты, дагматычнае багаслоўе — 33 выданні; Новы запавет і Евангеллі — 7; творы стараж. пісьменнікаў, Чэцця кніга — 11; белетрыстыка, палемічная л-ра, панегірыкі — 8; падручнікі — 12; выданні, якія выкарыстоўваліся ў літургіі і школьнай справе — 16. Адносна вял. частку брацкіх выданняў (33,33 %) складалі літургічныя тэксты, што было агульнай рысай кірылічнага кнігадрукавання ў пач. перыяд яго развіцця ва ўсіх усх.-слав. народаў. Гэта тлумачылася не толькі пануючым уплывам царк. ідэалогіі, але і неабходнасцю ўпарадкаваць і нармалізаваць сістэму богаслужэння, процістаяць уніяцкаму і каталіцкаму ўплывам і інш. Адначасова ішоў працэс пэўнага абміршчэння і дэмакратызацыі Б. к. Нават у літургічныя выданні нярэдка ўстаўляліся тэксты або раздзелы палемічнага і асветніцкага зместу, некаторыя з іх знаёмілі з творамі антычнага і стараж.-рус. пісьменства, гіст. героямі. Пэўныя канфесіянальныя выданні адначасова выкарыстоўваліся ў літургіі і ў хатнім чытанні, напр., «Псалтыр з паследаваннем» — адно з найб. частых выданняў брацтваў, якое аднаўляла асн. структуру «Малой падарожнай кніжкі» Скарыны. У «Месяцаслове» (заключнай частцы «Псалтыра з паследаваннем») змяшчаліся некаторыя элементы царк. календара, блізкія да звестак «Малой падарожнай кніжкі», упаміналіся кананізаваныя імёны агульнаслав., стараж.-

рускіх і рус. дзеячаў. Абміршчэние брацкіх канфесіянальиых выданняў выяўлялася ў значным пашырэнні саслоўна-прафес. кола чытачоў. Уплыў чытацкага асяроддзя асабліва адчуваўся ў імкненні брацтваў узняць грамадскі прэстыж свецкіх, непрывілеяваных саслоўяў Упершыню ў царк.-рэліг. пісьменстве сцвярджалася, што нямала «святых» і «пакутнікаў» былі «з купцов», «мытников», «жолнеров». Прыкметную частку брацкай выдавецкай прадукцыі складала т. зв. Чэцця кніга, якая прызначалася для келейнага або хатняга чытання творы Іаана Златавуста, Макарыя Егіпецкага, Фікарыя Святагорца, павучальная л-ра («Дыёптра» ў перакладзе Віталія) і інш Секулярызацыйныя тэндэнцыі ў дзейнасці праваслаўных брацтваў найб. адбіліся на павелічэнні ўдзельнай вагі белетрыстычных, вучэбных, палемічных выданняў. Узорам мастацка-апавядальных выданняў быў сярэдневяковы агіяграфічны раман «Гісторыя пра Варлаама і Іасафа», выдадзены ў 1637 у Куцейне (выдаўцы прыпісалі яго Іаану Дамаскіну, бел. пераклад зрабіў архімандрыт магілеўскага Богаяўленскага манастыра І Полаўка). Брацтвы падрыхтавалі і выдалі некалькі важных граматычных і лексікаграфічных выданняў «Граматыка славянская» Л. Зізанія (1596), «Граматыкі славянскія» Сматрыцкага (1619), «Лексікон славянароскі» П. Бярынды (1653). Масавымі тыражамі выходзілі школьныя падручнікі, што прызначаліся для навучання дзяцей асновам кніжнаслав пісьменства З 1590-х гадоў да 1654 бел. друкарні выпусцілі 16 буквароў (з іх 8 брацкіх) — больш за палавіну ўсіх аналагічных выданняў, выдадзеных у той час ва ўсх.-слав. землях Стараж брацкія буквары мелі некалькі рэдакцый, якія істотна адрозніваліся,— «федараўскую», у аснову якой пакладзены львоўскае і астрожскае выданні *Азбук Івана Федарава* (1574 і 1578), еўінскую («Буквар», 1618), што паслужыла ўзорам для большасці пазнейшых бел. выданняў Арыгінальнай па змесце была *Азбука Зізанія Лаўрэнція* 1596 У Б. к., як і ў дзейнасці праваслаўных брацтваў наогул, выяўляліся пэўныя рэфарматарскія тэндэнцыі. Для прадстаўнікоў уніяцкай іерархіі была відавочнай ідэйная сувязь першых брацкіх выдаўцоў з іх папярэднікамі, пачынаючы са Скарыны Уніяцкі палеміст А *Сялява*, звяртаючыся ў 1622 да братчыкаў, пісаў «Хіба не вы ўласна дазваляеце атручвацца.. людзям сваім вучэннем іншаверцаў? І прад тым яшчэ, даўно, пры продках вашых, вам падобных, Русь была нямала атручана да уніі быў Скарына, гусіт ерассю, які па-руску друкаваў вам кнігі ў Празе Прымалі іх з удзячнасцю, дастаткова таго было, што зваўся Русін з Полацку, як падпісваўся Смактавалі яго друкі, гаварылі, што чалавек годны, русін, брат наш, гэта друкаваў Сымон Будны і Лаўрэнцій Крышкоўскі, сваю арыянскую атруту па-руску надрукаваўшы, рассеялі паміж папоў» (Архив Юго-Западной России. Киев, 1914. Ч. 1, т 8, вып. 1. С. 717).

Асобнае месца у жанравай структуры Б. к. заняла палемічная публіцыстыка (гл. *Палемічная літаратура)* Палемічнае Б. к. было накіравана супраць контррэфармацыі, каталіцкай экспансіі, царк.-рэліг уніі, якія абмяжоўвалі грамадска-паліт., культ. і рэліг. сувязі ўсх -слав. народаў, звужалі магчымасць развіцця бел. і ўкр культур і садзейнічалі паланізацыі феадалаў, мяшчанства, абвастралі нац.-рэліг і сац -класавыя супярэчнасці. Антыкаталіцкія і антыуніяцкія ідэі палемічнай публіцыстыкі былі па-свойму выкарыстаны нар масамі Беларусі і Украіны ў барацьбе супраць нац і рэліг. дыскрымінацыі і сац. прыгнету, у бунтах, сял.-казацкіх войнах і выступленнях. Нямала ўвагі аддавалі брацкія выдаўцы прававым пытанням На першы план выступілі праблемы заканадаўчай рэгламентацыі права, выкарыстання яго ў інтарэсах усіх саслоўяў, у т. л мяшчанства, абмежавання феад. свавольства і насілля. Ідэолагі брацкай палемічнай л-ры (Сматрыцкі) лічылі, што пісанае права, якое адпавядала прыродным патрэбам чалавека і саслоўна-класавай градацыі грамадства, непрадузятае судаводства, выкананне ўсіх прынятых норм і законаў здольны забяспечыць мір у краіне, пакончыць з нац -рэліг. разладам, папярэдзіць нар. буйты і хваляванні, аслабіць сац. напружанне. У 2-й пал. 1620-х — 30-я гады палемічная рэліг. публіцыстыка ў Б. к. саступіла месца новым свецкім гісторыка-прававым выданням. Ідэолагі кансерватыўнага крыла ў брацтвах разлічвалі, што кіруючыя колы дзяржавы, феад. знаць і шляхта змогуць вырашыць асн. грамадска-паліт. праблемы. Гісторыка-прававыя выданні таго часу адрасаваны соймавым і сенацкім «станам» У бел кнігадрукаванні 16 — 1-й пал 17 ст. толькі прывілеяваная друкарня Мамонічаў і брацкія друкары шырока выкарыстоўвалі бел. мову ў сваіх выданнях Па агульнай колькасці выданняў на бел мове брацкія друкарні прыкладна ў 1,5 раза апярэджвалі друкарню Мамонічаў. З пач. дзейнасці да 1654 брацкія выд-вы выпусцілі 17 кніг на бел. мове, 1 з паралельным польскім перакладам («Казанне святога Кірылы...», 1596), а таксама двухмоўны «Лексікон славянароскі» Бярынды. Удзельная вага ўсей гэтай групы ў агульнай колькасці брацкіх выданняў, якія захаваліся,— прыкладна 22 %, па колькасці аркушаў — каля 10 %. У 27 выданиях сустракаюцца фрагменты бел. тэксту прадмовы, пасляслоўі, тлумачэнні на палях, адасобленыя раздзелы [арт С. Зізанія «Казанне пра рымскі вялікдзень», паследаванне (саборнік 12 месяцам)] і інш. У некаторых выданнях (напр., «Трэбніку», 1621) гэтыя артыкулы агаворавы ў прадмове «Наконец придалисмо простым языком предмову пред шлюбом малженским. Науку пред споведю, пытанне в споведи, и материа казаня на погреб». Выданні з фрагментамі і раздзеламі бел. тэксту складаюць каля 31 %, а разам з вышэй иазванай групай — 53 % ад колькасці брацкіх выданняў, што захаваліся

Брацкія выдаўцы шмат зрабілі для дэмакратызацыі бел. літаратурна-пісьмовай мовы, укаранення яе ў кнігадрукаванне, замены кніжнаслав. мовы беларускай у некаторых канфесіянальных жанрах. Найб. актыўна ўжывалася бел. мова ў тых брацкіх выданнях, якія выкарыстоўваліся як Чэцця кніга, па-за сферай богаслужэння і ў палемічных выданнях, надрукаваных кірыліцай. Выданні брацкіх і інш бел друкарняў з канца 16 ст. сталі адыгрываць гал. ролю ў нармалізацыі бел. пісьмовай мовы, выпрацоўцы і замацаванні яе граматычнага ладу, арфаграфічных і лексічных норм Выдаўцы адраджалі і аўтарытэт кніжнаслав. мовы, што тлумачылася не толькі архаічнымі кансерва тыўнымі тэндэнцыямі Кніжна-славянская (царк.-слав.) мова ў канцы 16 ст была аб'ектам інтэнсіўнай палемікі з ідэолагамі каталіцызму (найперш П. *Скаргам)*, якія сцвярджалі, што яна не прымальная для тэалогіі, развіцця духоўнай культуры, гуманітарных навук Брацкія выдаўцы абаранялі грамадскае значэнне кніжнаслав. мовы, адстойвалі багатыя гіст. традыцыі бел. і ўсей усх.-слав. культуры. Выкарыстанне кніжнаслав. мовы брацкімі выдаўцамі аблягчала культ сувязі з іншымі ўсх.-слав

Да арт **Брацкае кнігадрукаванне.** «Казанне святога Кірылы» С Зізанія Тытульны ліст Друкарня віленскага брацтва 1596

народамі. Большасць брацкіх і інш. бел. кірылічных выданняў, якія пашыраліся ў Рус. дзяржаве ў канцы 16 — 1-й пал. 17 ст., былі надрукаваны на кніжнаслав. мове, якая непадзельна панавала ў кнігадрукаванні.

Б. к. ўдасканаліла многія вонкавыя формы і асаблівасці выданняў (фармат, мастацка-арнаментальнае афармленне, гравюры, 2-фарбавы пракат і інш.), большасць элементаў унутр. структуры кнігі: тытульны ліст, прадмовы, калафоны, розныя прыемы версткі і набору тэксту. У адрозненне ад інш. кірылічных друкарняў (Федарава і Мсціслаўца ў Заблудаве, Мсціслаўца, Гарабурды і Мамонічаў у Вільні) у Б. к. намнога часцей выкарыстоўваліся зручныя паменшаныя фарматы кніг. Яны складаюць 94,25 % усіх ацалелых выданняў. Фарматы кніг прыстасоўваліся да патрэб вандроўных купцоў, рамеснікаў і інш. слаеў бел. «посполства». Падобныя фарматы кніг пераняты непасрэдна ад Скарыны, што пацвярджаецца поўным падабенствам найменняў гэтых выданняў у тэрмінах, прынятых бел. першадрукаром: «малые кніжкі» (параўн. «Малая падарожная кніжка»), «подорожные» і да т. п. У прадмове да адной са сваіх «книжек малых» брацкія выдаўцы адзначалі: «Для тых еднак, которые не часто в ц[е]ркви бывают, а асобливе для подорожных. Не всим абовем целый Оустав пре скудость его з друку мети, а пре великость его з собою возити зыйдеться». Малы фармат дазваляў таксама рабіць брацкія выданні больш таннымі і даступнымі.

У брацкіх выданнях выкарыстоўваліся гравюры разнастайнага зместу розных мастацка-стылявых форм. Кніжнае мастацтва брацкіх друкароў 16—1-й пал. 17 ст. развівалася пад уплывам мясц. мастацка-прыкладных традыцый. Гравюры брацкіх выданняў, нягледзячы на іх эвалюцыю і нац. спецыфіку, былі выразна звязаны са спадчынай стараж.-рус. і ўсх.-слав. выяўл. мастацтва. На практыцы брацкія кнігадрукары пастаянна адступалі ад некаторых канонаў праваслаўнай артадоксіі, творча ўспрымалі вопыт еўрап. краін. Гэта выяўлялася ў пашырэнні літ. крыніц арыгінальных брацкіх выданняў, асабліва палемічных, у развіцці рэфармацыйных ідэй, у перакладах і выданнях асобных кніг еўрап. аўтараў (Гаспаднецча), узбагачэнні мастацка-стылявых сродкаў кніжнага афармлення. У Еўінскай друкарні ўпершыню ў гісторыі бел. Б. к. выкарыстана металагравюра свецкага зместу, на якой паказаны купал неба са знакамі задыяка і некаторымі планетамі («Панегірык на шлюб Аляксандра Служкі, ваяводы менскага», 1634). Віленская Святадухаўская і Еўінская друкарні былі прамымі спадчыннікамі друкарскіх матэрыялаў Скарыны — яго віленскіх заставак і ініцыялаў у рамках з раслінным арнаментам. Дошкі Скарыны выкарыстоўваліся ў Б. к. аж да пач. 1650-х гадоў. Часам брацкія выдаўцы капіравалі або імітавалі яго віленскія аздобы. Б. к. адлюстравала новы ўзровень грамадска-паліт. і патрыятычнай свядомасці гараджан і рост унутрысаслоўных супярэчнасцей, развіцце дэмакр. і гуманіст. тэндэнцый і ўзмацненне ўплыву царквы ў 2-й пал. 17 ст. Палітычны саюз феадалаў ВКЛ і Польшчы, у якім вырашальная роля належала польскай феад. знаці, а ў духоўнай сферы — каталіцкай царкве, да сярэдзіны 17 ст. стварыў неспрыяльныя ўмовы для далейшага развіцця бел. і ўкр. культуры. У сярэдзіне 17 ст. ў сувязі з працяглымі войнамі, разарэннем брацтваў, значным пагаршэннем грамадска-паліт. умоў дзейнасць амаль усіх брацкіх друкарняў спынілася. У канцы 17—18 ст. працягвала выпускаць кнігі толькі Магілёўская Богаяўленская друкарня (большасць яе прадукцыі складалі літургічныя выданні на царк.-слав. мове). Да нашага часу дайшло 87 кірылічных выданняў (агульным аб'емам больш за 20 600 арк.) і 25 надрукаваных лац. шрыфтам (больш за 1700 арк.) Выданні бел. праваслаўных брацтваў шырока распаўсюджваліся на Украіне, паступалі і ў Расію. У 1639 свае паслугі ў развіцці маск. кнігадрукавання прапаноўваў С. Собаль і друкар П. Магіла. У 1648 ігумен Бізюкоўскага манастыра Гедэон быў адпраўлены ў Маскву з рэкамендацыйным лістом Труцэвіча, хадайнічаў аб вял. партыі кніг маскоўскага друку. Гедэон прапанаваў цару Аляксею Міхайлавічу выдаць «зело великолепные» кнігі яго рэдакцыі. У час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* Б. к. значна пацярпела. У 1654—55 усе куцеінскія друкары і граверы, значная частка манахаў на чале з Труцэвічам трапілі ў Расію; вывезена і абсталяванне друкарні. Б. к. канчаткова спыніла сваю дзейнасць пасля падзелаў Рэчы Паспалітай у апошнія дзесяцігоддзі 18 ст. Па сваёй культурнай, грамадска-паліт. і ідэалагічнай накіраванасці, па функцыях і ўплыву ў «посполитым» асяроддзі бел. і укр. насельніцтва яно аб'ектыўна адыграла вядучую ролю ва ўсім бел. і ўкр. кнігадрукаванні 16 — 1-й пал. 17 ст.

Да арт. **Брацкае кнігадрукаванне.** «Лямант на смерць Лявонція Карповіча». Тытульны ліст. Друкарня віленскага брацтва. 1620.

Да арт. **Брацкія школы.** Будынак школы 17 ст. ў Полацку.

*Літ.*: Белорусский просветитель Франциск Скорина и начало книгопечатания в Белоруссии и Литве. М., 1979; 450 год беларускага кнігадрукавання. Мн., 1968; Жураўскі А. І. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Т. 1. Мн., 1967; Жудро Ф. История Могилевского богоявленского братства. Могилев, 1890; Кніга Беларусі, 1517—1917: Зводны кат. Мн., 1986; Исаевич Я. Д. Преемники первопечатника. М., 1981; Яго ж. Роль братств в издании и распространении книг на Украине и Белоруссии (конец XVI—XVIII в.) // Книга и графика. М., 1972; Шматаў В. Ф. Беларуская кніжная гравюра XVI—XVIII стагоддзяў. Мн., 1984.

*Г. Я. Галенчанка.*

**БРА́ЦКІЯ ШКО́ЛЫ**, агульнадаступныя навуч. ўстановы, якія ствараліся *брацтвамі праваслаўнымі* ў канцы 16—18 ст. на Беларусі, Украіне і ў Літве. Адыгралі значную ролю ў развіцці асветы. У ліку першых Б. ш. адкрыты ў Вільні (каля 1584), Магілеве (1590), Берасці (1591), Менску (1612), Пінску, Слуцку, Львове, Кіеве, Луцку і інш. гарадах. Кожная Б. ш. мела свой статут, які вызначаў змест і арганізацыю навучання, рэгламентаваў паводзіны настаўнікаў і вучняў у школе і па-за школай. На чале школы стаяў рэктар, які кіраваў навучальным працэсам і адказваў за работу школы перад брацтвам, што яго абрала. Дыдаскалы (настаўнікі) таксама выбіраліся брацтвам, якое ўстанаўлівала ім плату. Некаторыя брацтвы для нагляду за школамі выбіралі з ліку братчыкаў 2 правізараў. Для пачатковага навучання настаўнікі Б. ш. карысталіся Псалтыром, Часасловам, азбукамі і букварамі. Атрымаўшы першапачатковую падрыхтоўку, вучні пераходзілі да засваення «сямі вызваленых (свабодных) навук»: «Трывіума» (граматыка, рыторыка, дыялектыка) і «квадрывіума» (арыфметыка, геаметрыя, астраномія і музыка). Вывучаліся царкоўнаславянская, грэч.,

ўзнікалі пры цэрквах і манастырах. Пасля *Брэсцкай уніі 1569* у Б. у. пераўтварыліся *брацтвы праваслаўныя* ў тых гарадах Беларусі, Літвы і Украіны, дзе прыходы праваслаўнай царквы пераходзілі ў склад уніяцкай царквы, узнікалі таксама пры пабудаваных у 17—18 ст. уніяцкіх цэрквах і манастырах. Назвы Б у ўтвараліся ад назваў цэркваў і манастыроў, да якіх яны былі прыпісаны. У 17—18 ст. большасць нацыянальна-рэлігійных арг-цый на Беларусі адносілася да Б. у., бо 75 % насельніцтва належала да уніяцкай царквы Найб. вядомымі Б у. былі Траецкае (згадваецца ў 1613) у Вільні, брацтвы пры цэрквах Спаса і св Пятра ў Друі (17—18 ст.) і інш. У Б. у. ўваходзілі гал. чынам гараджане — рамеснікі, гандляры, купцы, духавенства, зрэдку шляхціцы (большасць шляхты на Беларусі з 17 ст. належала да рымска-каталіцкай царквы) Кантроль за дзейнасцю Б. у. ажыццяўляў той уніяцкі епіскап, у епархіі якога знаходзілася брацтва Дамінуючая роля ў Б у. належала купецка-цэхавым вярхам горада і уніяцкаму духавенству Пакольки на чале гар. магістратаў таксама стаялі прадстаўнікі гэтых вярхоў, Б. у. на Беларусі былі часткаю сістэмы гар. самакіравання, што дазваляла гар. уладам уздзейнічаць на большасць гараджан не толькі юрыдычна, але маральна і ідэйна. Б. у. мелі вял. ўплыў на рамесныя цэхі, прыпісаныя да пэўных цэркваў горада У брацтваў былі свае статуты і харугвы, іх дзейнасцю кіравалі выбраныя на агульных сходах «старэйшыя» (старшыны). На сходах таксама рабіліся запісы ў брацкія кнігі, збіраліся ўклады ў брацкую скарбонку, якой «старшыя» братчыкі карысталіся як своеасаблівым банкам для разнастайных гандл.-фінансавых аперацый, прымаліся ў сябры брацтва новыя братчыкі, якія давалі прысягу. Гал. мэтай Б у была рэліг., дабрачынная і асветніцкая дзейнасць. Ладзіліся агульныя маленні, пахаванні нябожчыкаў (сяброў брацтва і чл. іх сямей), святочныя абеды. Са скарбонкі брацтва выдаваліся пенсіі старым і нядужым «братам», іх удовам і сіротам. Б. у. ўтрымлівалі «калечыя куты» (прытулкі), багадзельні, шпіталі. У выключных выпадках брацтва маглі даць грашовую дапамогу людзям, якія не належалі да Б у Ахвяравалі таксама сродкі на ўтрыманне вязняў у астрогах. Братчыкі дапамагалі школам, якія былі прыпісаны да Б. у, распаўсюджвалі рэлігійную л-ру, прапагандавалі хрысціянскае веравучэнне інш. сродкамі Літаратура, якой карысталіся сябры Б. у., выдавалася на бел. і царкоўна-слав. мовах. Б. у зрабілі значны ўклад у развіццё бел. нацыянальнай культуры.

*А. П Грыцкевіч*

**БРА́ЦЬКАВІЧЫ,** веска ў Касцюковіцкім раёне За 18 км на З ад Касцюковіч, 21 км ад чыг. ст Камунары 101 двор, 253 жыхары (1992).

Мясцовасць заселена з глыбокай старажытнасці, аб чым сведчыць курганны могільнік (24 насыпы, за 1 км на Пн ад вескі). Па пісьмовых крыніцах вёска вядома з 16 ст., у Мсціслаўскім ваяводстве ВКЛ. У 19 — пач 20 ст. Б.— цэнтр воласці Чэрыкаўскага пав. Належалі дваранам Усакоўскім. Дзейнічала праваслаўная царква (драўляная), існавалі вадзяны млын, сукнавальня, карчма, у 1878 адкрыта царкоўна-прыходская школа. У 1886 у вёсцы 39 двароў, 285 жыхароў. У рэвалюцыю 1905—07 Брацькавіцкая вол. была ахоплена сялянскімі хваляваннямі. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі ў весцы дзейнічаў валасны Савет сялянскіх дэпутатаў, у 1918 — камітэт беднаты. З 20.6.1924 у Калінінскім павеце (да 17.7.1924). З 20.8.1924 да 26.2.1992 цэнтр сельсавета ў Касцюковіцкім р-не (з 8.12.1959 да 4.6 1965 у складзе Забычанскага сельсавета). У 1929 арганізаваны калгас «12-ы Кастрычнік» У Вял. Айч. вайну з жн 1941 да вер. 1943 акупіравана ням.-фаш захопнікамі. Ва ўрочышчы Харавынь на Пн ад вескі дыслацыраваўся партыз. атрад 45-ы «За Радзіму». Вызвалена ў ходзе *Бранскай аперацыі 1943.* З 1954 Б.— цэнтр калгаса імя Сталіна, з 1959 у складзе саўгаса «Ленінскі шлях», з 1969 цэнтр саўгаса «Брацкі». У 1970 у Б. 159 двароў, 533 жыхары. У весцы сярэдняя школа, 2 магазіны, фельчарска-акушэрскі пункт. Магіла сав. воінаў што загінулі ў вер. 1943 пры вызваленні вескі, помнік землякам. У 1986 у выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС мясцовасць забруджана радыеактыўнымі ападкамі. З-за высокага ўзроўню радыяцыі значная частка жыхароў з Б. і навакольных весак выселілася

*У Р Ламінскі*

**БРАЦЯ́НКА,** веска ў Гарадзечанскім сельсавеце Навагрудскага р-на Назва паходзіць ад стараж славянскага тэрміна «брацяніца» — княжацкі склад. За 4 км на Пн ад Навагрудка, 27 км ад чыг ст. Наваельня, 159 жыхароў, 80 двароў (1990).

У пісьмовых крыніцах упершыню згадваецца 1.4.1428, калі вял. кн. Вітаўт асобнай граматай перадаў Б. ва ўтрыманне сваей жонцы Ульяне. У 1449 «двор Брацянка» лічыўся ўласнасцю вял. кн. Казіміра Ягелончыка У 15—18 ст у складзе Наваградскага ваяв З 1795 веска Навагрудскага пав. Слонімскай, з 1797 Літоўскай, з 1801 Гродзенскай, з 1842 — Мінскай губерняў. У час 1-й сусв. вайны з вер 1915 акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі Да 1917 каля Б. існаваў хутар Брацянка 27.12 1918 веска вызвалена Чырвонай Арміяй. У крас 1919 акупіравана войскамі бурж Польшчы. Сав ўлада адноўлена ў ліп 1920 і існавала да кастр 1920 У 1921—39 Б ў складзе Польшчы. Актывісты КПЗБ, КСМЗБ, ТБШ і БСРГ вялі сярод насельніцтва вескі прапаганду за сац. і нац. вызваленне З 1939 у БССР у складзе Навагрудскага р-на Баранавіцкай, з 8 1 1954 Гродзенскай абласцей. У 1941—44 пад ням -фаш. акупацыяй Вызвалена 8 7 1944 У 1950 тут арганізаваны калгас, з 1969 Б. ў складзе саўгаса «Дубкі» Магазін, б-ка

У весцы брацкая магіла, дзе пахавана каля 4 тыс. мірных жыхароў, растраляных ням.-фаш. захопнікамі ў час Вял. Айч. вайны.

За 1 км на З ад вескі курганны могільнік 10—12 ст. Размешчаны на ўзвышанай пляцоўцы на левым беразе безымяннага ручая. Складаўся з 2 курганных груп (130 і 30 курганоў) вышыней ад 0,5 м да 1,5 м, дыяметрам ад 3,5 да 10 м. Ля падэшвы насыпаў прасочваюцца раўкі Даследавана 15 курганоў Пахавальны абрад — трупаспаленне і трупапалажэнне Выяўлены вырабы з жалеза (сякеры, нажы, крэсівы і інш.), кераміка, упрыгожанні (пацеркі, бляшкі з цісненнем, пласцінкі і інш.). Належаў дрыгавіцкаму насельніцтву

*Літ* Prochaska A Codex epistolaris Vitoldi magni ducis Lithuaniae, 1376—1430 Krakow, 1882 S 794, Kodeks dyplomatyczny katedry i diecezje wilenskiej Krakow, 1948 T 1 S 219, Гуревич Ф Д Древности Белорусского Понеманья М, Л 1962 С 179, Павлова К В Раскопки могильника близ Новогрудка // Краткие сообщения Ин-та археологии АН СССР М, 1965 Вып 104

*М А Ткачоу*

**БРАЧЫСЛА́Ў** (?—?), князь ізяслаўскі (заслаўскі) і лагожскі (лагойскі). На думку М. В Доўнар-Запольскага і Л. В. Аляксеева, сын кн. *Давыда Усяславіча*, на думку В Я. Данілевіча — сын кн. *Барыса Усяславіча* Жанаты з дачкою кіеўскага кн. Мсціслава Уладзіміравіча Упамінаецца ў Лаўрэнцьеўскім летапісе пад 1127, у Іпацьеўскім і Густынскім летапісах пад 1128, калі кіеўскі кн Мсціслаў Уладзіміравіч пайшоў вайной на палачан за іх адмову ўдзельнічаць у паходзе супраць полаўцаў Войскі Б былі акружаны пад Лагожскам, і князь трапіў у палон да свайго швагра Ізяслава Мсціславіча.

*Літ* Данилевич В Е Очерк истории Полоцкой земли до конца XIV ст Киев, 1896, Алексеев Л В Полоцкая земля в IX—XIII вв (Очерки истории Северной Белоруссии) М, 1966, Ермаловіч М Старажытная Беларусь Полацкі і навагародскі перыяды Мн, 1990

*Г В Штыхау*

**БРАЧЫСЛА́Ў** (?—?), князь полацкі ў 1230-я гады Упамінаецца ў Наўгародскім 1-м летапісе старэйшага і малодшага зводаў Жыў у Віцебску, выдаў сваю дачку замуж за наўгародскага кн. Аляксандра Яраславіча (Неўскага) Вяселле адбылося ў Таропцы ў 1239. Гісторыкі лічаць Б апошнім прадстаўніком дынастыі полацкіх Ізяславічаў.

*Літ* Новгородская первая летопись старшего и младшего изводов М; Л 1950, Полное собрание русских летописей Спб, 1856 Т 7 С 144

**БРАЧЫСЛА́Ў ВАСІ́ЛЬКАВІЧ** (?—?), князь ізяслаўскі (заслаўскі) і віцебскі, сын полацкага кн Васількі Рагвалодавіча У 1158 атрымаў у княжанне Ізяслаў ад полацкага кн. *Рагвалода Барысавіча.* У 1159 з братам Валодшам узяты ў палон менскімі князямі Глебавічамі і знявolены ў Менску, адкуль яго вызваліў Рагвалод Барысавіч. У 1162 з інш полацкімі князямі ваяваў супраць дарага-

бужскага кн. Уладзіміра Мсціславіча за Слуцк. У 1180, калі быў князем віцебскім, разам з кіеўскім кн. Святаславам Усеваладавічам і чарнігаўскімі князямі ваяваў супраць смаленскіх Расціславічаў. Упамінаецца ў «Слове пра паход Ігаравы».

*Літ.:* Данилевич В. Е. Очерк истории Полоцкой земли до конца XIV ст. Киев, 1896; Алексеев Л. В. Полоцкая земля в IX—XIII вв.: (Очерки истории Северной Белоруссии). М., 1966; Ермаловіч М. Старажытная Беларусь: Полацкі і новагародскі перыяды. Мн., 1990.

*Г. В. Штыхаў.*

**БРАЧЫСЛА́Ў ІЗЯСЛА́ВІЧ** (?—1044), полацкі князь [1003—44], сын *Ізяслава Уладзіміравіча*, унук *Рагнеды Рагвалодаўны* і Уладзіміра Святаславіча. На княжацкі трон узышоў малалетнім. Звесткі пра яго дзейнасць сустракаюцца з 1021. Як 1-ы князь адроджанай полацкай дынастыі *Рагвалодавічаў* змагаўся за аднаўленне незалежнасці *Полацкай зямлі*. Пасля смерці вял. князя кіеўскага Уладзіміра Святаславіча (1015) як нашчадак старэйшага ў родзе сына мог прэтэндаваць на кіеўскі трон. На думку некаторых даследчыкаў, правіў у Кіеве ў 1019—21. Пасля таго, як барацьба за вышэйшую ўладу паміж Святаполкам Уладзіміравічам і Яраславам Мудрым скончылася перамогай апошняга, Б. І. выступаў супраць імкнення Яраслава Мудрага падпарадкаваць сваёй уладзе ўсе землі Кіеўскай Русі. У 1021 ён пайшоў на Ноўгарад, захапіў яго і вывеў у Полацк шмат палонных разам з іх маёмасцю. Яраслаў Мудры з войскамі пайшоў з Кіева насустрач Б. І. і на р. Судаміры разбіў палачан. Аднак паводле заключанага паміж князямі пагаднення Б. І. атрымаў гарады Віцебск і Усвяты. Да 1026 Б. І. і Яраслаў Мудры кіравалі Кіеўскай Руссю са сваіх вотчын Полацка і Ноўгарада праз намеснікаў у Кіеве, што азначала прызнанне Яраславам паліт. незалежнасці Полацкай зямлі. У летапісе згадваецца

У. І. Бровікаў.

пра існаванне ў Кіеве «Брачыславава двара» і двара «мужоў Яраслававых». У 1024 Мсціслаў Уладзіміравіч захапіў Чарнігаў, а ў 1026 Яраслаў усталяваўся ў Кіеве, што парушыла ўладу дуумвірату. Аднак Б. І. здолеў значна пашырыць межы Полацкай зямлі на Пд і на Пн, дзе быў заснаваны горад Брачыслаўль (Брачыслаў), цяпер Браслаў. Імя Б. І. было вядома ў скандынаўскім свеце, пра што сведчыць «Эймундава сага».

*Літ.:* Ермаловіч М. Старажытная Беларусь: Полацкі і навагародскі перыяды. Мн., 1990. *С. В. Тарасаў*

**БРЖЭ́СКІ** Вітольд Часлававіч [12(25). 11.1913, с. Рубанка Канатопскага пав. Чарнігаўскай губ.— 16.10.1984], беларускі вучоны ў галіне гісторыі медыцыны і сац. гігіены. Д-р мед. н. (1969), праф. (1969). Скончыў 1-ы Ленінградскі мед. ін-т (1936). Урач. Удзельнік палярнай экспедыцыі на ледаколе «Ярмак» (1939—40). Заснавальнік і ў 1961—82 загадчык кафедры сац. гігіены, арганізацыі аховы здароўя і гісторыі медыцыны Гродзенскага медыцынскага ін-та. Аўтар прац па гісторыі земскай хірургіі. Даследаваў навук. дасягненні земскіх хірургаў, іх уклад у навуку і практыку. Падрыхтаваў паказальнік імён медыкаў з указаннем фактаў ушанавання іх памяці. Дакументы, якія адносяцца да гісторыі медыцыны і дзейнасці многіх медыкаў Беларусі, захоўваюцца ў асабістым фондзе Б. (№ 260) у Дзярж. архіве Гродзенскай вобл.

*Тв.:* Имена хирургов в памяти советского народа // Клиническая хирургия. 1979. № 11; Увековеченные имена отечественных ученых-морфологов // Архив анатомии, гистологии и эмбриологии. 1981. Вып. 1; Местная печать — о медицинских работниках // Сов. здравоохранение. 1983. № 6; Подвиг медиков в памяти народа // Там жа. 1985. № 12.

*Літ.:* Память В. Ч. Бржеского // Здравоохранение Белоруссии. 1985. № 6; Плешавеня А. Асабісты фонд // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1987. № 2. *Ф. І. Ігнатовіч.*

**БРО́ВАР,** вінакурня, вытворчая пабудова, дзе варылі піва, гналі гарэлку. На Беларусі вядомы з 16 ст. ў замках, сядзібах, пры корчмах. Размяшчалі Б. звычайна каля рэчак і сажалак, у асобных выпадках — у дварах. Будавалі пераважна драўляныя, пазней мураваныя. Часта ў комплекс Б. ўваходзілі саладоўня з сушыльняй, варыўня, дзе захоўвалі гародніну і харчовыя прыпасы, лазня, а таксама жыллё.

**БРО́ВІКАЎ** Уладзімір Ігнатавіч (12.5. 1931, г. Ветка — 2.10.1992), беларускі парт. і дзярж. дзеяч, журналіст, дыпламат. Скончыў БДУ (1955), Акадэмію грамадскіх навук пры ЦК КПСС (1969). Кандыдат філас. навук (1969). З 1955 загадчык аддзела, нам. рэдактара і рэдактар раённых, міжраённай і аб'яднанай газет у Віцебскай вобл. У 1958 уступіў у КПСС. З 1963 нам. сакратара парткома Аршанскага вытв. калгасна-саўгаснага ўпраўлення. У 1965—66 2-і сакратар Аршанскага РК КПБ. З 1969 рэдактар газ. «Віцебскі рабочы», з 1970 сакратар Віцебскага абкома КПБ. У 1972—78 інспектар, пам. сакратара, нам. загадчыка аддзела арганізацыйна-парт. работы ЦК КПСС. З 1978 2-і сакратар ЦК КПБ, з 1983 Старшыня Савета Міністраў БССР. У 1986—90 надзвычайны і паўнамоцны пасол СССР у Польшчы. Чл. ЦК КПСС у 1981—90. Чл. ЦК і Бюро ЦК КПБ у 1978—86. Дэпутат Вярх. Савета СССР у 1979—89, Вярх. Савета БССР у 1979—86.

**БРО́НЗАВЫ ВЕК,** перыяд у гісторыі чалавецтва, калі распаўсюдзілася металургія бронзы, з якой выраблялі прылады працы, зброю, упрыгожанні. На некаторых тэр. яму папярэднічаў энеаліт (медна-каменны век), калі ўжываліся рэчы з медзі.

Напачатку бронзу пачалі выплаўляць у краінах Пярэдняй Азіі, Егіпце, Індыі, Кітаі (4—3-е тысячагоддзі да н. э.). У Еўропе Б. в. прыпадае на канец 3-га — пач. 1-га тысячагоддзя да н. э. Стараж. капальні медзі, волава, мыш'яку і інш. металаў, з якіх выплаўлялася бронза, знойдзены ў шэрагу краін Зах. і Цэнтр. Еўропы, а на тэр. б. СССР — у Закаўказзі, Казахстане, Сібіры. Выкарыстанне бронзавых прылад павысіла прадукцыйнасць працы, што вяло да канцэнтрацыі ў руках асобных людзей лішкаў прадуктаў, пашырэння абмену паміж рознымі рэгіёнамі. З'явіліся першыя скарбы медных і бронзавых рэчаў. Узнікненне маёмаснай няроўнасці вяло да распаду першабытнаабшчыннага ладу. У некаторых краінах Міжземнамор'я, Пярэдняй Азіі, у Індыі і Кітаі паявілася рабаўладальніцтва, узніклі дзяржавы, пашырыліся войны як сродак захопу рабоў і маёмасці. У Б. в. на некаторых тэр. адбыўся 1-ы вял. падзел працы — на земляробства і жывёлагадоўлю, пачало вылучацца рамяство. Паўсюдна пашыраліся патрыярхальна-родавыя адносіны з пануючым становішчам мужчыны ў сям'і і родзе. У Б. в. Еўропу насялялі плямёны розных археал. культур.

На тэр. Беларусі Б. в. пачаўся на мяжы 3-га і 2-га тысячагоддзя да н. э. Аддаленасць ад стараж. цэнтраў металургіі была прычынай захавання тут на больш працяглы час каменных прылад працы, аднак апрацоўваліся яны лепш: шырока ўжываліся шліфаванне, свідраванне, пілаванне, апрацоўка крэменю струменістай рэтушшу. Вырабляліся крамянёвыя наканечнікі коп'яў, кінжалы, сярпы. Распаўсюдзілася здабыча крэменю шахтавым спосабам (Краснасельскія шахты ў Ваўкавыскім р-не). Бронзавых рэчаў на тэр. Беларусі мала — шылы, сякеры, наканечнікі коп'яў, упрыгожанні. Мясцовая вытв-сць некаторых бронзавых рэчаў з прывазной сыравіны, а таксама пераплаўка сапсаваных вырабаў пачалася ў 1-й пал. 2-га тысячагоддзя да н. э. Важнае месца ў гаспадарцы побач з традыц. паляваннем, рыбалоўствам і збіральніцтвам пачалі займаць земляробства і жывёлагадоўля. Паўсюдна пашырыўся пласкадонны посуд разнастайнага асартыменту (гаршкі, міскі, кубкі, друшлякі), што было выклікана з'яўленнем агнішчаў з роўнай чарэнню, сталоў са шчапаных і часаных дошак і больш разнастайнай ежы. З Прыбалтыкі на тэр. Беларусі ў абмен на крэмень трапляў бурштын, з Прычарнамор'я і Каўказа — упрыгожанні з шклопадобнай масы і бронзавыя вырабы. Некаторыя металічныя знаходкі паходзяць з Карпата-Альпійскай вобл. і Скандынавіі. З пашырэннем вытвараючых форм гаспадаркі ўжо ў пач. Б. в. на тэр. Беларусі адбыліся змены ў ідэалогіі, адным з вынікаў гэтага сталі пахаванні нябожчыкаў на бескурганных і курганных могільніках па абрадзе трупаспалення. На могільніках сустракаюцца багатыя і бедныя пахаванні, часам цэнтр. месца ў іх займаюць пахаванні мужчын. У пачатку Б. в. на тэр. Беларусі, заселенай аўтахтонным познанеалітычным насельніцтвам, праніклі плямёны розных культур шнуравой керамікі. На тэр. паўд.-усх. Беларусі, як і ў суседніх раёнах Украіны, жылі плямёны *сярэдненяпроўскай культуры,* на зах. Палессі — плямёны *шну-*

Да арт. **Бронзавы век.** Бронзавы наканечнік кап'я з могільніка Стралца каля в. Рудня-Шлягіна Веткаўскага р-на (уверсе) і гліняны гаршчок з г. п. Краснасельскі Ваўкавыскага р-на.

Да арт. **Бронзавы век.** Бронзавая сякера з курганнага могільніка Ходасавічы Рагачоўскага р-на.

*равой керамікі Палесся культуры,* у Панямонні — *прыбалтыйскай культуры.* У Паазер'і развівалася *паўночнабеларуская культура,* што сфарміравалася на неалітычным субстраце і ўспрыняла некаторыя рысы «шнуравікоў». На тэр. Беларусі ўзаемаадносіны находнікаў і абарыгенаў у Б. в. характарызаваліся рознымі формамі ўзаемаўплыву і асіміляцыі. Гэтыя працэсы прывялі да фарміравання к сярэдзіне 2-га тысячагоддзя да н. э. ў басейне Прыпяці і на паўд Панямонні *тшцінецкай культуры,* у Падняпроўі — роднаснай ей *сосніцкай культуры,* арэал якіх выходзіў і на суседнія тэр. Украіны, Расіі і Польшчы. Насельніцтва большай часткі Панямоння ў гэты час выкарыстоўвала посуд са штрыхаванай паверхняй, а на Падзвінні — гладкасценны. У канцы Б. в. пачалі складвацца пач. этапы мілаградскай, штрыхаванай керамікі, днепра-дзвінскай культур, росквіт якіх адбыўся ў ранні жал. веку. У Б. в. на тэр. Беларусі сустракаюцца сляды *шматвалікавай керамікі культуры* і лебядоўскай культуры, а на паўд. захадзе — *лужыцкай культуры.*

*Літ* Очерки по археологии Белоруссии Ч 1 Мн, 1970; Белорусская археология Достижения археологов за годы Советской власти Ми, 1987, Исаенко В Ф Археологическая карта Белоруссии Вып 3 Памятники бронзового века Ми, 1976, Артеменко И И Племена Верхнего и Среднего Поднепровья в эпоху бронзы М, 1967

*М М Чарняўскі, М М Крывальцэвіч*

**БРО́ННАЯ ГАРА́,** месца масавай загубы сав. насельніцтва ням.-фаш. акупантамі ў час Вял Айч. вайны каля чыг. ст Бронная Гара Бярозаўскага р-на. У маі — чэрв. 1942 ва ўрочышчы выкапана 8 ям даўжыней 45—60 м, шырыней 6—6,5 м, глыбіней 3—4 м; іх абнеслі калючым дротам. З Брэста, Бярозы-Картузскай, Гарадца, Драгічына, Іванава, Кобрына, Пінска па спецыяльна пабудаванай чыгуначнай ветцы гітлераўцы дастаўлялі да ям-магіл эшалоны з сав. грамадзянамі, пераважна жанчынамі, дзецьмі, старымі. На спец пляцоўках людзей прымушалі распранацца, па драцяных калідорах гналі да ям, загадвалі класціся радамі і расстрэльвалі з аўтаматаў. Да ліст. 1942 тут загублена больш за 50 тыс. чал. Каб замесці сляды сваіх злачынстваў, у сак. 1944 гітлераўцы прыгналі сюды 100 палонных, якія 2 тыдні раскопвалі і палілі трупы. Потым фашысты расстралялі і тых, хто выконваў гэтыя работы.

*Літ.* Преступления немецко фашистских оккупантов в Белоруссии, 1941—1944 Документы и материалы [2 изд.] Мн, 1965

*З І Бялуга.*

**БРО́ННАЯ СЛАБАДА́** ў Маскве, месца пасялення майстроў па вырабу броні, панцыраў, кальчуг і халоднай зброі ў 16—17 ст. Падпарадкоўвалася Збройнай палаце. Знаходзілася паміж Малой Нікіцкай і Цвярской вуліцамі і паміж Вялікай Броннай вул. і Спірыдонаўскім завулкам. У 1570 Іван IV Грозны пасяліў тут яшчэ іншаземных майстроў-шабельнікаў, паланеных у час Лівонскай вайны 1558—83. Сярод іх былі і беларусы. У 1632 налічвала 103 двары. Пазней у Б. с. па селены збройнікі, вывезеныя з Беларусі ў час руска-польскай вайны 1654—67 У выніку гэтага склад насельніцтва Б. с. да канца 17 ст змяніўся: тут не засталося ніводнага «броннікa», а жылі пераважна кавалі і збройнікі. Сярод іх бел майстры пішчальнікі (Васіль Быхавец, Максім Іваноў і інш.), шабельнікі (Рыгор Іваноў, Іван Анісімаў і інш.), станочнікі (Максім Міхайлаў, Андрэй Трафімаў і інш.). У 1672 частка бел майстроў пераведзена з Б. с. у наваствораную *Мяшчанскую слабаду* Зброя бел. майстроў захоўваецца ў зборы агнястрэльнай зброі Крамлёўскай Збройнай палаты.

*Літ* Сытин П В Откуда произошли названия улиц Москвы М, 1959; Абецедарский Л С Белоруссия и Россия Очерки рус-бел связей второй полови ны XVI—XVII в Мн, 1978

*Г В Прыбытка*

**БРО́НСКІ** Антон, адзін з кіраўнікоў *паўстання 1830—31* Дваранін Гродзенскай губ., валодаў маенткам Падолле ў Слонімскім пав. У 1831 разам з памешчыкам Н. Незабытоўскім стварыў у Слонімскім пав. паўстанцкі атрад з шляхты і асоб інш. саслоўяў. Неўзабаве атрад Б. далучыўся да атрада ген Г. Дэмбінскага, з якім дайшоў да Варшавы. Найбольш актыўны ўдзел у паўстанні ў якасці маера 3-га пях палка Б. праявіў на тэр. Царства Польскага. Па выніках працы следчай камісіі 22.10.1832 аднесены да 1-га разраду злачынцаў, у спісе найб. значных удзельнікаў паўстання (*51* чал.) яго прозвішча значыцца пад нумарам 31. Аднак пошукі Б царскімі ўладамі пасля паражэння паўстання не далі вынікаў. Далейшы лес яго невядомы.

*А П Госцеў*

П Броўка.

**БРО́ЎКА** Пятрусь [Петр Усціднавіч; 12(25).6.1905, в. Пуцілкавічы Барысаўскага пав. Мінскай губ., цяпер Ушацкі р-н — 24.3.1980], беларускі паэт і грамадскі дзеяч. Нар. паэт БССР (1962). Акад АН БССР (1966, чл.-кар з 1953) Засл. дзеяч навукі БССР (1975). Герой Сац. Працы (1972). Скончыў БДУ (1931). Працоўную дзейнасць пачаў 13-гадовым хлапчуком. Працаваў перапісчыкам у Велікадолецкім ваен. валасным камісарыяце, валвыканкоме, рахункаводам у саўгасе. У 1924 выбраны старшыней Маладолецкага сельсавета. Дасылаў допісы ў газ. «Беларуская веска», «Савецкая Беларусь», «Звязда» У 1925 накіраваны на працу ў Полацкі акр. камітэт ЛКСМБ. У 1927—28 адказны сакратар газ. «Чырвоная Полаччына». Чл. КПСС з 1940. Удзельнік Вял. Айч. вайны, у 1941—42 працаваў у франтавой газ. «За Савецкую Беларусь», супрацоўнічаў у партыз. друку З 1943

Да арт **Бронзавы век.** Посуд сярэднедняпроўскай культуры з Беларускага Падняпроўя

адказны сакратар Саюза пісьменнікаў БССР, з 1945 рэдактар час. «Полымя». У 1948—67 старшыня праўлення Саюза пісьменнікаў БССР, у 1967—80 гал. рэдактар выд-ва «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя».

Ранняя лірыка Б. прасякнута матывамі ўслаўлення рэвалюцыі, сав. рэчаіснасці: зборнікі «Гады як шторм» і «Прамова фактамі» (1930), «Цэхавыя будні» і аповесць для дзяцей «Каландры» (1931). Перамагаючы пэўную рытарычнасць і рамантычны схематызм ранніх твораў, паэт авалодваў прынцыпамі канкрэтна-рэаліст. адлюстравання жыцця (зб. «Прыход героя», 1935). Унутраны лірызм яго твораў спалучаецца з рэаліст. бытавымі матывамі ў героіка-рамантычнай паэме «Праз горы і стэп» (1932), прысвечанай падзеям грамадз. вайны, з праўдзівасцю ў раскрыцці чалавечага характару ў паэме «1914» (1935). Праблемы шырокага грамадзянскага гучання ўзняты паэтам у зборніках: «Вясна Радзімы» (1937), «Шляхамі баравымі» (1940). У гады Вял. Айч. вайны паглыбляецца эмац.-рэаліст. змест паэзіі Б., узмацняецца яе патрыят. гучанне. Подзвіг народа, тэма вернасці Радзіме, пераемнасці яе гераічных традыцый атрымалі лірычнае і шырокае эпічнае ўвасабленне ў «Паэме пра Смалячкова» (1943), паэмах «Беларусь» (1943) і «Ясны кут» (1944), вершах «Кастусь Каліноўскі», «Надзя-Надзейка», «Рана», «Магіла байца», «Будзем сеяць, беларусы!». Аснову творчасці паэта вызначае тэма мірнай працы («Хлеб», 1946, вершы «Дума пра Маскву», «Брат і сястра», «Народнае дзякуй», «Каб мне стаць...», «Спатканне», Сталінская прэмія 2-й ступені 1947), барацьбы за мір (зборнікі: «У роднай хаце», 1946; «Дарога жыцця», 1950, Сталінская прэмія 3-й ступені, 1951; «Сонечнымі днямі», 1950, «Цвёрдымі крокамі», 1954, раман «Калі зліваюцца рэкі», 1956, Літ. прэмія імя Я. Коласа 1959, па матывах рамана пастаўлены балет Г. Вагнера «Святло і цені», 1963). У 1960—70-я гады ўзмацнілася ўвага паэта да маральна-этычных, агульначалавечых праблем, шырокае гучанне атрымала інтэрнац. тэма. Творчасць Б. напоўнілася гістарызмам, матывамі, звязанымі з асабістай біяграфіяй, з камсамольскім юнацтвам, маладосцю, авеянымі героікай рэв. барацьбы, першых гадоў сацыяліст. будаўніцтва. Вяршынным дасягненнем творчасці Б. сталі зборнікі «Пахне чабор» (1959), «Далёка ад дому» (1960), «А дні ідуць...» (1961, Ленінская прэмія 1962), «Высокія хвалі» (1962), «Між чырвоных рабін» (1969), паэма «Заўсёды з Леніным» (1967, Дзярж. прэмія БССР імя Я. Купалы 1969). Напісаў лібрэта опер «Міхась Падгорны», «Алеся» («Дзяўчына з Палесся», разам з Я. Рамановічам). Перакладаў на бел. мову творы Т. Шаўчэнкі, У. Маякоўскага, П. Тычыны, М. Бажана, А. Твардоўскага, М. Ісакоўскага, А. Пракоф'ева, У. Бранеўскага, Дж. Байрана. Дзярж. прэмія БССР 1976 за ўдзел у стварэнні Бел. Савецкай Энцыклапедыі. У 1959 як дэлегат ад БССР прымаў удзел у рабоце XIV сесіі Ген. Асамблеі ААН. Дэпутат Вярх. Савета БССР у 1947—55, Вярх. Савета СССР у 1956—80. Канд. у чл. ЦК КП(б)Б у 1949—52, чл. ЦК КПБ у 1952—80. У Мінску адкрыты *Броўкі Петруся літаратурны музей.* На доме, дзе Б. жыў у апошнія гады, і ў в. Пуцілкавічы — мемарыяльныя дошкі, у выд-ве «Беларуская Энцыклапедыя» і Велікадолецкай сярэдняй школе Ушацкага р-на — мемарыяльныя пакоі, у Пуцілкавічах — хата-музей. Яго імя прысвоена выд-ву «Беларуская Энцыклапедыя», калгасу «Новае жыццё» і Велікадолецкай школе; імем Б. названы вуліцы ў Мінску, Віцебску, Полацку, Гомелі, Бешанковічах, Ушачах. Для студэнтаў філалагічнага ф-та БДУ устаноўлена стыпендыя імя Петруся Броўкі. Ганаровы грамадзянін Мінска і Ушач.

*Тв.:* Збор тв. Т. 1—9. Мн., 1987—92; І маладосць і сталасць. Мн., 1980.

*Літ.:* Ярош М. Пятрусь Броўка: Нарыс жыцця і творчасці. Мн., 1981; Васілеўскі М. С., Каваленка М. А. Пятрусь Броўка: Бібліягр. паказ. 2 выд. Мн., 1976.

**БРО́ЎКІ ПЕТРУСЯ́ ЛІТАРАТУ́РНЫ МУЗЕ́Й.** Заснаваны ў Мінску 10.7.1980, адкрыты для наведвальнікаў 29.12.1984. Размешчаны па вул. К. Маркса, 30, дзе П. Броўка жыў у 1951—80. Мае 5 экспазіцыйных залаў (пл. 110 м$^2$), 20 тыс. экспанатаў асн. фонду (1990). Зберагае прадметы духоўнай і матэрыяльнай культуры, звязаныя з жыццём і творчасцю паэта. У экспазіцыі і фондах рукапісы твораў П. Броўкі, яго кнігі, выдадзеныя на бел. і інш. мовах, калекцыя кніг бел. пісьменнікаў і літаратараў з саюзных рэспублік з дарчымі надпісамі, асабістыя рэчы і дакументы паэта, творы вядомых скульптараў і мастакоў (З. Азгура, А. Бараноўскага, В. Бялыніцкага-Бірулі, А. Кашкурэвіча, Л. Лейтмана, Г. Паплаўскага) і інш. Музей вядзе навук.-даследчую работу, наладжвае выстаўкі, сустрэчы з пісьменнікамі і дзеячамі мастацтва. Філіял — хата-музей у в. Пуцілкавічы Ушацкага р-на, на радзіме паэта. *Ю. П. Броўка.*

**БРО́ЦЭ** (Brotce) Іаган Крыштоф (12.9.1742, г. Гёрліц, Германія — 16.8.1823), дзеяч прыбалтыйскай культуры, філосаф, гісторык, крыніцазнавец. Д-р філасофіі. Продкі Б. паходзілі з Чэхіі, у сярэдзіне 17 ст. перасяліліся ў Верхнюю Лужыцу (Германія). У 1763—68 вучыўся ў Лейпцыгскім і Вітэнбергскім ун-тах. У 1769—1815 рэктар Рыжскага імператарскага ліцэя (з 1804— гімназіі). Аўтар 111 рукапісных тамоў (захоўваюцца ў б-цы АН Латвіі), у якіх скапіраваны ці перамаляваны з розных архіўных крыніц пячаткі прыбалтыйскіх і замежных гарадоў, манастыроў, замкаў, цэхаў, знатных родаў, шрыфты гіст. дакументаў, змешчаны копіі манет, вадзяных знакаў, грамат князёў, каралёў і феадалаў ВКЛ і Рэчы Паспалітай 13—16 ст. Больш за 2,5 тыс. каляровых і чорна-белых малюнкаў Б. ўзнаўляюць помнікі архітэктуры, этнаграфіі, геральдыкі, сцэны побыту, нац. тыпы, вобразы прадстаўнікоў розных прафесій і саслоўяў, у т. л. плытагонаў і бурлакоў са стругамі з Бел. Падзвіння, наёмных рабочых, купцоў і інш. гандляроў з бел. гарадоў, бел. сялян і шляхты, мясціны ў Латгаліі, дзе жыло бел. насельніцтва. Да малюнкаў складзены апісанні, каментарыі. Спадчына Б.— унікальная крыніца для вывучэння гісторыі дыпламатыі, гандлю Беларусі з Прыбалтыкай, бел.-латышскіх эканам. і культурных сувязей. *С. С. Панізнік.*

**БРУ́Й** Фёдар Піліпавіч [19.9(2.10).1907, в. Івана-Агароднікі Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер в. Іванскія Агароднікі Слуцкага р-на — 17.1.1982], Герой Сав. Саюза (1943). У Чырвонай Арміі з 1929. Скончыў вышэйшыя афіцэрскія курсы «Выстрал» (1942). З вер. 1942 на Варонежскім, 1-м Укр. франтах. Удзельнік баёў на Курскай дузе. Камандзір батальёна маёр Б. вызначыўся пры вызваленні Украіны. У вер. 1943 удзельнічаў у вызваленні г. Ромны (Сумская вобл.). 25—28.9.1943 батальён пад яго камандаваннем на падыходзе да Кіева вызваліў некалькі населеных пунктаў, пераправіўся на Труханаў востраў. 2 дні вёў агонь па ворагу ў Кіеве, фарсіраваў Дняпро на Пн ад Кіева, на плацдарме адбіў 10 контратак праціўніка. Двойчы паранены, не пакінуў поля бою. Пасля вайны да 1955 у Сав. Арміі, падпалкоўнік. Ганаровы грамадзянін г. Слуцк.

**БРУ́КНЕР** (Brückner) Аляксандр (29.1.1856, г. Цярнопаль — 24.5.1939), польскі славіст, гісторык культуры. Чл. Пецярбургскай АН (1890). Вучыўся ў Львоўскім, Венскім, Лейпцыгскім і Берлінскім ун-тах. У 1881—1924 праф. славянскіх моў і л-р Берлінскага ун-та. У працы «З беларускай нівы» (Кракаў, 1918) разглядаў гісторыю бел. культуры, сцвярджаў выключную ролю бел. мовы ў ВКЛ, паказаў сутнасць тэрмінаў «ліцвін», «літоўскасць» у адносінах да Беларусі, даказваў неабходнасць адрозніваць Літву гіст. ад Літвы этнагр., сучаснай. У гэтай працы і ў даследаванні «Нарыс гісторыі славянскіх літаратур і літаратурных моў» (з Т. Лер-Сплавінскім, Львоў, 1929) аналізаваў творчасць Я. Баршчэўскага, В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча, Я. Купалы, Я. Коласа, Цёткі, М. Багдановіча, З. Бядулі, К. Буйло. Высока цаніў творчасць А. Міцкевіча, вылучаў у ёй бел. элементы і называў паэму «Пан Тадэвуш» беларускай. Аўтар прац «Сярэдневяковая лацінская паэзія ў Польшчы» (1892—94), «Нарыс гісторыі польскай літаратуры» (т. 1—2, 1903), «Польскія іншаверцы» (1905), «Гісторыя польскай культуры» (т. 1—4, 1930—46), «Старажытнапольская энцыклапедыя» (т. 1—2, 1939), артыкулаў «Польска-рускія інтэрмедыі XVII ст.» (1891), «Польска-рускія песні» (1911), «Фр. Скарына» (1927), дзе многа звестак па бел. культуры.

*Літ.:* W trzydziestolecie śmierci Aleksandra Brücknera. Kraków, 1971; Lutschmidt K.

Zur belorussischen Philologie // Zeitschrift für Slawistik. 1980. Bd. 25, h. 2; Aleksander Brückner, 1856—1939 Warszawa, 1989.
*Г. А. Кахановскі, А. В. Мальдзіс.*

**БРУН** Юльян (парт. псеўд. Спіс, Брановіч; 21.4.1886, Варшава — 28.4. 1942), рэвалюцыйны дзеяч і публіцыст КПП і КПЗБ. Чл. СДКПіЛ з 1905, КПП з 1919. Удзельнік рэвалюцыі 1905—07. Каб пазбегнуць рэпрэсій царскіх улад, эмігрыраваў у Францыю, Балгарыю. З 1919 чл. Цэнтр. рэдакцыі КПРП у Польшчы. У 1924 арыштаваны польскімі бурж. уладамі і засуджаны на 8 гадоў турмы. У выніку абмену паліт. зняволенымі з 1926 у СССР, працаваў у ТАСС. З 1929 на падп. рабоце ў Зах. Беларусі, прадстаўнік ЦК КПЗБ пры ЦК КП(б)Б. На II (1923) з'ездзе КПРП выбраны чл. ЦК, на V (1930) і VI (1932) з'ездах КПП — кандыдатам у чл. ЦК; на III (1929) пленуме ЦК КПЗБ кааптаваны ў чл. ЦК, а на II (1935) з'ездзе КПЗБ выбраны чл. ЦК. У 1928—38 адзін з рэдактараў тэарэт. органа ЦК КПП час. «Nowy przegląd» («Новы агляд»). У 1936—41 у эміграцыі ў Бельгіі, Францыі. Напярэдадні Вял. Айч. вайны жыў у СССР, займаўся публіцыстыкай. *М. С. Арэхва.*

**БРУ́СНЕВА ГРУ́ПА,** адна з першых сацыял-дэмакратычных арг-цый у Расіі. Утварылася ў 1889 у Пецярбургу ў выніку аб'яднання рэв. студэнцкіх рабочых гурткоў, якія раней былі звязаны з групамі Дз. Благоева і П. В. Тачыскага. Называлася «Цэнтральны рабочы камітэт», «Рабочы саюз», пазней — па імені кіраўніка групы М. І. Бруснева. Займалася прапагандай марксізму сярод перадавых рабочых з мэтай падрыхтоўкі з іх кіраўнікоў рабочага руху. Кіравалася праграмай групы *«Вызваленне працы»,* з якой трымала сувязь. Для перамогі над царызмам і буржуазіяй лічыла неабходным стварэнне самастойнай усерас. партыі рабочага класа. З гэтай мэтай наладзіла сувязь з рэв. гурткамі многіх гарадоў, у т. л. Гродна і Вільні (апошняя на рубяжы 1880—90-х гадоў была цэнтрам с.-д. руху ў Літве і на Беларусі). Актыўным дзеячам Б. г. быў ураджэнец Ліды М. В. *Алюшкевіч,* які пасля арышту Бруснева (1892) стаў адным з яе кіраўнікоў. Мела цесныя сувязі з *«Гуртком моладзі польска-літоўскай, беларускай і маларускай»,* які складаўся са студэнтаў Пецярбургскага тэхналагічнага ін-та. Праз яе кіраўніка А. *Гурыновіча* рабіла захады, каб набыць выданні групы «Вызваленне працы» (запрасіла больш за 880 экз. кніг 230 назваў на рус., польскай і бел. мовах). Набываць л-ру для паліт. прапаганды ёй дапамагалі рэвалюцыянеры Варшавы, Вільні і Гродна. На рабочых сходках прапагандысты групы чыталі творы К. Маркса, Г. В. Пляханава, Ф. Энгельса, польскіх сацыялістаў. Сходкі паводле складу былі інтэрнацыянальныя, на іх прысутнічала нямала беларусаў, што працавалі на пецярбургскіх ф-ках і заводах. Вясною 1893 група сама распачала выданне нелегальнай л-ры. Былі перакладзены на рус. мову і гектаграфаваны брашуры польскіх сацыялістаў Ш. Дзікштэйна «Хто чым жыве» і Э. Абрамоўскага «Рабочая справа», у якіх папулярна тлумачыліся асн. палажэнні вучэння К. Маркса. Апошняя пасля сур'ёзнай перапрацоўкі Алюшкевічам атрымала назву «Што павінен ведаць і памятаць кожны рабочы». У час сходкі 3.6.1893 арыштаваны кіраўнікі групы Алюшкевіч, Кулеў, Барынаў, Трафімаў і частка яе членаў — рабочых. Жандары пры вобыску на кватэры Алюшкевіча знайшлі б-ку нелегальнай л-ры, вял. колькасць фальшывых дакументаў, 5 сшыткаў зробленых гаспадаром выпісак з «Капітала» К. Маркса, гектограф са свежымі слядамі друкавання, архіў арг-цыі і інш. Дазнанне «Аб сацыяльна-рэвалюцыйнай прапагандзе сярод пецярбургскіх рабочых у 1893 г.» — так называлася справа Б. г. — праця́гвалася каля 2 гадоў. Па ёй праходзіла 35 чалавек. Большасць прапагандыстаў без суда, у адм. парадку, былі рэпрэсіраваны. Б. г. зрабіла першы крок насустрач рабочаму руху ў Расіі, спрыяла выхаванню першай плеяды рус. рабочых рэвалюцыянераў. Дзякуючы намаганням Алюшкевіча, яе дзейнасць пасля арышту Бруснева прадаўжалася амаль год.

*Літ.:* Полевой Ю. З. Зарождение марксизма в России, 1883—1894 гг. М., 1959; В начале пути: Воспоминания петербургских рабочих, 1872—1897 гг. Л., 1975.
*В. М. Чарапіца.*

М. Р. Брылёў.

Я. Брыль.

**БРЫГІ́ТКІ І БРЫГІТА́НЕ,** сальватарыяне (ад лац. Salwator Уратавальнік), члены каталіцкага манаскага ордэна, заснаванага Брыгітай (1302—73), дачкой шведскага кн. Біргера. Першы кляштар ордэна створаны ў 1334 у Паўд. Швецыі. Статут ордэна, які не ўключаў патрабавання абавязковага ўстрымання і беднасці, зацвердзіў у 1370 папа рымскі Урбан V. Пасля смерці Брыгіты ордэн сальватарыян сталі называць часцей брыгіцкім. Ордэн ствараўся гал. чынам для жанчын, аднак у яго маглі ўступаць і мужчыны, якія былі ў ім духоўнікамі. Існавалі змешаныя (для брыгітак і брыгітанаў) кляштары і ўласна жаночыя. Вопратка брыгітак: цёмна-вішнёвая сутана і такога ж колеру доўгі плашч з драўлянымі гузікамі, белая хуста і чорная льняная накідка з каронай белага палатна з 5 кружкамі чырвонага сукна (памяць пра раны Хрыста). Ордэн хутка пашыраў свой уплыў. Большая частка яго кляштараў знаходзілася ў краінах Паўн. Еўропы. На Беларусь Б. трапілі праз Польшчу, дзе іх кляштары з'явіліся ў 15 ст. ў Эльблонгу (змешаны) і Любліне (жаночы). Ордэн меў жаночыя кляштары ў Брэсце (1624—1830; фундатары Аляксандр Гасеўскі, Ян і Кацярына Пацеі, Ігнат Садоўскі, староста слонімскі) і Гродне [1634 (1632?) — пач. 20 ст.; фундатары вял. маршалак літ. Крыштафор Весялоўскі і яго жонка Аляксандра з роду Сабескіх]. Статут і традыцыі ордэна спрыялі таму, што ў яго ўступалі, як правіла, дзяўчаты са шляхецкіх і магнацкіх сем'яў, што вызначала трывалае эканам. становішча кляштараў Б. і б.

*Літ.:* Janicka-Olszakowa E. Zakony żeńskie w Polsce // Kościół w Polsce Kraków, 1970. T. 2. Wieki XVI—XVIII
*Л. А. Карнілава*

**БРЫЛЁЎ** Мікіта Рыгоравіч [15(27).5. 1896, в. Лучын Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Рагачоўскага р-на — 16.8.1955], генерал-лейтэнант (1945). У арміі з 1914, у Чырвонай Арміі з 1918. Удзельнік грамадз. вайны, ваяваў на Туркестанскім фронце. Скончыў Сярэднеазіяцкі ун-т (Ташкент, 1924), Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1933). У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 на Зах., Бранскім, Цэнтр., Бел., 1-м і 2-м Бел., 4-м Укр. франтах: нам. камандзіра і камандзір дывізіі, нач. штаба арміі. Удзельнік абароны Масквы, вызвалення Беларусі (Чавусаў, Слаўгарада, Рагачова, Магілёва, Мінска, Гродна), Чэхаславакіі. З 1946 у апараце Мін-ва абароны, камандуючы ваен. акругай. У 1951—53 нач. кафедры Сярэднеазіяцкага ун-та.

**БРЫЛЬ** Янка [Іван Антонавіч; н. 22.7(4.8).1917, Адэса], беларускі пісьменнік. Нар. пісьменнік Беларусі (1981). У 1922 з бацькамі вярнуўся ў Зах. Беларусь у в. Загор'е Стаўбцоўскага пав. (цяпер Карэліцкі р-н). Скончыў польскую сямігодку ў мяст. Турэц. З 1939 служыў у польскай арміі. У вер. 1939 трапіў у ням. палон, адкуль увосень 1941 уцёк на радзіму. Удзельнік партыз. руху на Беларусі ў Вял. Айч. вайну. З сак. 1944 супрацоўнічаў у газ. «Сцяг свабоды», органе Мірскага падп. РК КП(б)Б. Пасля вызвалення Мірскага р-на працаваў рэдактарам раённай газеты, літ супрацоўнікам газ.-плаката «Раздавім фашысцкую гадзіну». З кастр. 1944 у Мінску; працаваў у час. «Вожык», Дзярж выд-ве БССР, нам. рэдактара час. «Маладосць», «Полымя». У 1966—71 сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Першы зб. «Апавяданні» (1946). У пасляваен. творах пісьменнік асэнсоўваў праблемы развіцця заходнебел. вёскі, распрацоўваў тэмы вайны, акупацыі, супраціўлення фашызму: зб. «Нёманскія казакі» (1947), «Верасневая рунь» (1949), аповесць «У Забалоцці днее» (1950, Сталінская прэмія 1952), зб. «На Быстранцы» (1955), «Надпіс на зрубе» (1958), «Мой родны кут» (1959), «Працяг размовы» (1962, Літ. прэмія імя Я. Коласа 1963). Пісаў нарысы пра жыццё і дзейнасць удзельнікаў зах.-беларускага падполля П. Жалезняковіча і Р. Сяржанта, паэта В. Таўлая. Адным з першых увёў у бел. ваен. прозу тэму духоўных каштоўнасцей і праблему выбару (раман «Птушкі і гнёзды», 1963). Ідэйна-эстэт вяршыню прозы Б складаюць творы, у цэнтры якіх філас. асэнсаванне сучаснай гісторыі, пошукі духоўных каранёў і маральных устояў быцця героя, грамадскага прызвання мастака (аповесці «Ніжнія Байдуны», 1975; «Золак, убачаны здалёк», 1978, Дзярж. прэмія БССР імя Я. Коласа 1982, і інш.). Пісьменнік суадносіць гісторыю з побытам, грамадства з індывідам, дзяржаву з сям'ёй, прасочвае дэфармацыі светаўспрымання ў маладых удзельнікаў вялікіх гіст. падзей. Лічыць л-ру часткай нацыянальнай, сац. і гуманіст свядомасці народа, сродкам памнажэння і перадачы з пакалення ў пакаленне патрыят., маральна-этычных і эстэт. ідэалаў. Праўдзівасць у адлюстраванні жыцця, заглыбленасць у грамадскія працэсы і духоўны свет асобы надае яго творам грунтоўнасць і глыбокую пазнавальнасць. Адзін з аўтараў (з А. Адамовічам і У. Калеснікам) кн. «Я з вогненнай вёскі...» (1975), у якой сабраны сведчанні людзей, што выпадкова выратаваліся ў час знішчэння ням.-фаш. захопнікамі жыхароў бел весак Выступае ў друку па пытаннях л-ры і літ. жыцця (зб. артыкулаў «Роздум і слова», 1963, «Трохі пра вечнае», 1978, і інш.). Піша для дзяцей. Пераклаў на бел. мову паасобныя творы Л. Талстога, А. Чэхава, М Горкага, Э. Ажэшкі, М. Канапніцкай, А Вішні, А. Даўжэнкі, Я. Івашкевіча і інш Творы Б перакладзены на многія мовы народаў свету. Быў старшынёй Бел. аддзялення т-ва «СССР — Канада». Дэпутат Вярх. Савета БССР у 1963—67, 1980—85.

*Тв* Збор тв Т 1—2 Мн, 1960; Збор тв Т 1—4 Мн, 1967—68; Збор тв. Т 1—5 Мн, 1979—81

*Літ* Майхровіч С Янка Брыль Жыццё і творчасць Мн, 1961; Канэ Ю Янка Брыль Критико-биогр очерк М, 1964; Гусева Л Янка Брыль — мастак. Мн, 1968, Аляхновіч Р В Янка Брыль у школе Мн 1979 *У А Калеснік*

Р І Брычонак.

Б Р Брэжга.

**БРЫ́НСКІ** Антон Пятровіч (10.6.1906, в. Андрэеўка Чамеравецкага р-на Хмяльніцкай вобл.— 14.6.1981), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партыз. руху на Беларусі ў гады Вял. Айч. вайны, пісьменнік. Герой Сав. Саюза (1944). Скончыўшы Камянец-Падольскую саўпартшколу (1926), працаваў сакратаром Стараўшыцкага райкома камсамола, старшынёй Камянец-Падольскага райвыканкома. З 1928 у Чырвонай Арміі. У Вял. Айч. вайну выконваў спец. заданні ў тыле ворага З кастр 1941 камандзір дыверсійнага разведвальнага атрада, які дзейнічаў на чыг. Орша — Барысаў, на Брэсцкім, Баранавіцкім і Лунінецкім чыгуначных вузлах, стварыў партыз. асобыя атрады і групы. З ліст. 1942 у зах. абласцях Украіны, з 1943 камандзір партыз. злучэння асобага прызначэння. З крас. 1944 у Маскве. Скончыў курсы «Выстрал» (1945), курсы камандзіраў палкоў, камандаваў дывізіяй пры Акадэміі імя Фрунзе (1952). Да 1955 у Сав. Арміі, палкоўнік.

*Тв* · По ту сторону фронта Воспоминания партизана Кн 1—2. 3 изд Горький, 1966, Боевые спутники мои. 2 изд Горький, 1969, Девчонка из Марьиной рощи Докум повесть М., 1973, О друзьях-товарищах Автобиогр повесть Горький, 1981

**БРЫЧО́НАК** Роберт Іванавіч [5(17).1 1893, Пецярбург — 5.2.1972], генерал-лейтэнант артылерыі (1945). Беларус Скончыў тэхн. вучылішча (1912), кав. вучылішча (1915). У Чырвонай гвардыі з 1917, у Чырвонай Арміі з 1918. Удзельнік грамадз вайны, сав.-фінляндскай вайны 1939—40. З 1940 нач. артылерыі стралк. дывізіі. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 на Паўд., Волхаўскім, Ленінградскім, 4-м Укр. франтах нач. артылерыі дывізіі, камандуючы артылерыяй арміі. Удзельнік абароны Ленінграда, вызвалення Польшчы. У 1946—53 нач. артыл. вучылішча

**БРЭ́ГМАН** Аляксандр Абрамавіч (псеўд. Жалязняк; 1895, Мазыр — 1919), удзельнік барацьбы за Сав. уладу на Беларусі. З ліп. 1917 чл. Бабруйскага камітэта РСДРП(б), чл. Бабруйскага Савета і камісар па харчаванні. З кастр. 1917 нач. чырвонагвардзейскай камендатуры пры Бабруйскім к-це РСДРП(б). Пасля заняцця Бабруйска корпусам Доўбар-Мусніцкага ўцёк у студз. 1918 з-пад арышту польскіх легіянераў. У крас. 1918 накіраваны Паўн.-Зах абкомам РКП(б) на падп. работу на акупіраваную кайзераўскімі войскамі тэр. Беларусі. Адзін са стваральнікаў Барысаўскага, з мая 1918 старшыня Магілёўскага падп. райкомаў РКП(б), з кастр. 1918 чл. Магілёўскага рэўкома (пасля выгнання з Беларусі германскіх інтэрвентаў), сакратар Магілёўскага пав. камітэта РКП(б), чл. губрэўкома. З лют. 1919 на Зах. фронце, з мая 1919 камісар брыгады Мазырскай групы войск. У час бою з польскімі інтэрвентамі трапіў у палон. Яго жывога закапалі па шыю ў зямлю, а потым адсеклі галаву *Т П Плавінская*

**БРЭ́ГМАН** Лазар Абрамавіч (12.2.1894, г. Мазыр — 9.7.1925), удзельнік рэв. руху. З 1913 вучыўся ў Юр'еўскім (Тартускім) ун-це, уключыўся ў рэв. дзейнасць. У 1-ю сусв. вайну вёў паліт. агітацыю сярод студэнтаў і салдат. З сак 1917 чл. Юр'еўскіх выканкома Саветаў і камітэта РСДРП, удзельнік Лют. рэв. 1917 у Юр'еве. Быў чл Кранштацкага камітэта РСДРП(б), нам. старшыні, потым старшыня выканкома Кранштацкага Савета. Пад яго кіраўніцтвам сфарміраваны кранштацкі зводны атрад, які ўдзельнічаў у Кастр узбр. паўстанні 1917 у Петраградзе У грамадз. вайну з 1919 нач. абароны Кранштата, потым на фронце З 1921 на парт. рабоце ў Петраградзе. *Э А Карнілович*

**БРЭ́ЖГА** Баляслаў Рычардавіч (31.3 1887, Рэжыцкі пав. Віцебскай губ.,

цяпер Латвія — 30.9.1957), беларускі і латышскі археолаг, гісторык, археограф, палеограф, філолаг, адзін з пачынальнікаў архіўнай справы на Беларусі. Д-р гісторыі (1933). Скончыў Віцебскую гімназію (1910), Маск. археал. ін-т (1916). З 1918 заг. Віцебскага аддзялення гэтага ін-та, у 1922—24 навук. супрацоўнік Віцебскага губ. архіва. З 1925 жыў у Латвіі. З 1930 праф. кафедры Рускага ін-та універсітэцкіх ведаў, з 1937 інспектар упраўлення помнікаў, у 1940—41 дырэктар Дзвінскага пав. дзяржархіва, з 1945 праф. кафедры слав філалогіі Латвійскага дзярж. ун-та, з 1946 ст. навук. супрацоўнік Ін-та гісторыі і матэрыяльнай культуры АН Латвіі. Аўтар больш як 100 навук. прац (больш за 10 засталіся ў рукапісах). Пісаў на латышскай, рус., бел., польскай, ням., французскай мовах, на латгальскім дыялекце. Даследаваў гіст. сувязі беларусаў і латышоў, гісторыю паўстання 1863 на тэр. Віцебскай губ., складаў бібліяграфію па гісторыі Беларусі, вывучаў дагаворныя граматы Полацка і Рыгі, Полацкія летапісы, збіраў матэрыял для параўнальнага аналізу бел. мовы і латгальскага дыялекту, ва ун-це вёў курс стараж. бел. пісьменства.

*Тв.:* Архівы і архіўная праца ў Віцебшчыне // Віцебшчына. Віцебск, 1925 Т. 1; Адносіны палачан і латышоў у VIII—XVIII вв. // Школьная праца Дзвінск 1926 № 1, Ахова помнікаў старажытнасці на Віцебшчыне // Беларуская школа ў Латвіі Рыга, 1932 № 4—5, 1933 № 4—6, Замкі Віцебшчыны Вільня, 1933; Жалаба рыскае рады канца XIII стаг. // Запісы Бел Навук Т-ва Вільня, 1938 Сш 1, Очерки по истории крестьянских движений в Латгалии 1577—1907. Рыга, 1956.

*Літ* Панізнік С. Ён уздымаў старонкі даўніны // Голас Радзімы. 1978 № 18

*С С Панізнік*

**БРЭ́ЖНЕЎ** Леанід Ільіч [19.12.1906, с. Каменскае (з 1936 г. Днепрадзяржынск) — 10.11.1982], савецкі парт. і дзярж. дзеяч. Пасля сканчэння ў 1927 Курскага землеўпарадкавальна-меліярацыйнага тэхнікума працаваў каморнікам у Коханаўскім р-не Аршанскай акр. БССР, у зямельных органах Урала. Чл. КПСС з 1931. Скончыўшы Днепрадзяржынскі металургічны ін-т (1935), з сярэдзіны 1930-х гадоў працаваў інжынерам, з 1939 сакратаром Днепрапятроўскага абкома КП(б)У. У Вял. Айч. вайну нам. нач. Палітупраўлення Паўд. фронту, нач. Палітаддзела 18-й арміі, нач. Палітупраўлення 4-га Укр. фронту. У 1946—56 1-ы сакратар Запарожскага, Днепрапятроўскага абкомаў КП(б)У, ЦК КП Малдаўскай ССР, сакратар ЦК КПСС, нам. нач. Галоўнага палітупраўлення Сав. Арміі і ВМФ, 2-і, 1-ы сакратар ЦК КП Казахстана. У 1956—60 сакратар ЦК КПСС, адначасова ў 1958 нам. старшыні Бюро ЦК КПСС па РСФСР. У 1960—64 Старшыня Прэзідыума Вярх. Савета СССР, з 1963 адначасова сакратар ЦК КПСС, потым да 1966 Першы сакратар ЦК КПСС і старшыня Бюро ЦК КПСС па РСФСР. З крас. 1966 Ген. сакратар ЦК КПСС, адначасова з чэрв. 1977 Старшыня Прэзідыума Вярх. Савета СССР і Старшыня Савета абароны СССР. Герой Сац. Працы (1961), 4 разы Герой Сав. Саюза (1966, 1976, 1978, 1981). Маршал Сав. Саюза (1976). Чл. ЦК КПСС з 1952. Кандыдат у чл. Прэзідыума ЦК КПСС у 1952—53 і ў 1956—57, потым чл. Прэзідыума ЦК, з 1966 — Палітбюро ЦК КПСС. Чл. Прэзідыума Вярх. Савета СССР у 1965—77. Лаўрэат Міжнар. Ленінскай прэміі «За ўмацаванне міру паміж народамі» (1973), Ленінскай прэміі за кнігі «Малая зямля», «Адраджэнне» і «Цаліна», за барацьбу за мір (1979) Узнаг. Залатым медалем Міру імя Ф. Жало-Кюры (1975), міжнар прэміяй «Залаты Меркурый» за ўмацаванне міру і развіццё міжнар. супрацоўніцтва (1980). У гады знаходжання Б. на вышэйшых кіруючых пасадах у эканоміцы, сац. і духоўнай сферах жыцця краіны і грамадства нараставі застойныя працэсы, узмацнілася парушэнне прынцыпаў сац. справядлівасці, што стварыла перадкрызісную сітуацыю.

*Тв* Ленінскім курсам Прамовы і арт Пер з рус Т 1—7 Мн, 1973—80

**БРЭН** Келясцін Іванавіч [каля 1800, Брэстчына — 17(29).3.1875], беларускі краязнавец, фальклярыст і этнограф Скончыў Брэсцкае 6-класнае вучылішча, Жыровіцкую духоўную семінарыю (1831). З 1831 святар у Кобрыне, з 1838 настаяцель царквы ў в. Стары Корнін Бельскага пав. Гродзенскай губ Збіраў матэрыялы пра побыт народа, абрады, нар. гульні і забавы, жылле аддзенне, ежу, склаў зельнік. Запісаў песні, загадкі, прымаўкі, казкі, вясельныя абрады у Бельскім пав. Адзначаў шмат архаічнасці ў бел фальклоры, што дало падставу лічыць бел нар творчасць адной са старажытнейшых і жыццяздольных у слав рэгіёне Аўтар працы «Мясцовае этнаграфічнае апісанне Бельскага павета...» (нап. ў 1856 зберагаецца ў архіве Геаграфічнага т-ва СССР у Санкт-Пецярбургу, раздзел II вып. 1, № 4), у якой адлюстравана матэрыяльная і духоўная культура бел насельніцтва на тэр. Падляшша.

*Літ* Лобач М Па слядах рукапіснага этнаграфічнага апісання Бельскага павета святара Келясціна Брэна з 50-х гадоў XIX стагоддзя // Studia polsko-litewsko białoruskie Warszawa, 1988

*Г А Каханоўскі*

**БРЭ́СЛАЎ** Барыс Абрамавіч [29.9(10 10).1882, в. Мікуліна Аршанскага пав Магілёўскай губ., цяпер Талачынскі р-н — 20.4.1943], удзельнік рэв. руху, публіцыст, гісторык. У 1901 за кіраўніцтва забастоўкай на ф-цы Калбаноўскага у Віцебску сасланы ва Усх. Сібір. У пач 1904 чл. Пецярбургскага камітэта

Гербы г Брэста: герб на пячатцы 1592—1651 (1), герб на пячатцы 1650 (2), герб на пячатцы 1742—75 (3) брэсцкі павятовы герб 1845 (4)

Панарама цэнтральнай часткі Брэста Гравюра 1657

РСДРП, адказны сакратар Выбаргскага і Маскоўскага р-наў. У 1905 вёў парт работу ў Нікалаеве, Екацярынаславе (цяпер Днепрапятроўск). У рэвалюцыю 1905—07 чл. ваеннай арг-цыі пры Маскоўскім к-це РСДРП, нач. баявых дружын, затым у Екацярынбургскай арг-цыі РСДРП. У 1909—11 чл. парыжскай групы бальшавікоў, слухач парт. школы ў Ланжумо (Францыя). За рэв. дзейнасць 4 разы быў арыштаваны, каля 10 гадоў правёў на катарзе. Пасля Лют. рэв. 1917 супрацоўнік газ. «Правда», рэдактар газ. «Голос правды» ў Кранштаце. З кастр. 1917 чл. Петраградскага акругкома РСДРП(б) і выканкома Кранштацкага Савета, камісар 7-га зводнага атрада кранштацкіх маракоў, чл Петраградскага ВРК. Пасля Кастр. рэвалюцыі 1917 старшыня Віцебскіх губкома партыі і гарсавета, Маскоўскага гаркома РКП(б), чл. Прэзідыума Масcавета, нам. старшыні Маскоўскай ЧК. Удзельнік грамадз. вайны. Потым на паліт. рабоце ў Чырв. Арміі. У 1924—35 на сав., гасп. і дыпламатычнай рабоце Чл. ВЦВК у 1918—19. Аўтар успамінаў «Аб У. І. Леніне: (Беглыя ўспаміны)» (1934), брашур і артыкулаў па гісторыі рэв. руху і Кастр рэвалюцыі.

*Тв* Характер и этапы русской революции К 1-й годовщине рус революции 27 февр. 1917 г — 27 февр 1918 г. Витебск, 1918; Первые шаги (дек 1917 г — июнь 1918 г) Красная быль. Большевики в Витебске: Сб ст Витебск, 1923

*Літ* Корнилович Э А. Слушатель школы в Лонжюмо // Корнилович Э А. Люди революционного подвига. Мн, 1985.

*Э А Карніловіч*

**БРЭСТ,** горад, цэнтр Брэсцкай вобл. Размешчаны на правым беразе р. Зах. Буг, пры ўпадзенні ў яго р. Мухавец, на граніцы Беларусі з Польшчай. Вузел чыгунак і аўтадарог. Рачны порт, звязаны каналам з басейнамі Дняпра і Буга. Аэрапорт. 283,9 тыс. ж. (1992).

Летапісная назва горада — Берестье (бел. Берасце, Бярэсце), у канцы 18 — пач. 20 ст. Брэст-Літоўск, у 1921—39 — Брэст-над-Бугам, з вер. 1939— Брэст. Археалагічнымі даследаваннямі ўстаноўлена, што горад узнік на тэр рассялення ўсходнеслав. племяннога аб'яднання дрыгавічоў. У выніку раскопак выяўлена Берасцейскае гарадзішча (цяпер на гэтым месцы Валынскае ўмацаванне *Брэсцкай крэпасці*). Дзяцінец стараж. Бярэсця размяшчаўся на мысе, утвораным правым берагам Зах. Буга і левым берагам левага рукава р. Мухавец, а пасад — на востраве, утвораным 2 суседнімі рукавамі Мухаўца. На дзяцінцы раскапаны вуліцы з драўляным насцілам, рэшткі больш як 200 жылых і гасп. пабудоў. Знойдзены сведчанні развіцця тут рамёстваў, гандлевых і культ. сувязей з гарадамі стараж. Русі і суседнімі краінамі. Першае летапіснае ўпамінанне Бярэсця ў *«Аповесці мінулых гадоў»* пад 1019. Горад быў гандл. цэнтрам Старажытнарус. дзяржавы на мяжы з польскімі і літ. ўладаннямі. З прычыны прыгранічнага размяшчэння часта быў у цэнтры ваен. падзей. У 11—12 ст. горад належаў тураўскім, кіеўскім, уладзіміра-валынскім і галіцка-валынскім князям. У 1020 захоплены польскім кн. Баляславам Храбрым, у 1044 Яраслаў Мудры вярнуў яго ў Кіеўскае княства. У 1146 горад у складзе *Тураўскага княства,* пасля ва Уладзіміра-Валынскім (з 1199 у Галіцка-Валынскім) княстве. У 1164 горадам валодаў літоўскі князь Скірмунт. Пра паходы на Б. успамінае Уладзімір Манамах у сваім «Павучанні». У 2-й пал. 13 ст. горадам авалодаў валынскі кн. Уладзімір Васількавіч. У канцы 13 — пач. 14 ст. заваяваць Б. імкнуліся польскія каралі і літ. князі. У 1319 горадам авалодаў вял. князь ВКЛ *Гедзімін.* У 1349 Б. захапіў польскі кароль Казімір III, у 1366 горад вернуты ВКЛ. У 1379 яго разрабавалі і спалілі тэўтонскія рыцары. У 1390 Б. першы з бел. гарадоў атрымаў самакіраванне на аснове *магдэбургскага права,* якое пацвярджалася ў 1408, 1511, 1554, 1580, 1607, 1614, 1661. У час *Вялікай вайны 1409—11* гараджане выставілі супраць тэўтонскіх крыжакоў харугву, якая гераічна змагалася ў бітве пад Грунвальдам 15.7 1410. З 1413 Б.— цэнтр Берасцейскага староства ў складзе Трокскага ваяв. Быў цэнтрам рамяства і гандлю. Прывілеем 1441 Б. аднесены да гал. гарадоў ВКЛ. У 1500 горад разрабаваны войскамі крымскага хана Менглі Гірэя. З 1520 Б.— цэнтр павета Падляшскага ваяв. У 1553 брэсцкі староста М. Радзівіл Чорны заснаваў тут кальвінскі збор і першую на Беларусі друкарню. З 1566 Б.— цэнтр *Брэсцкага ваяводства.* У канцы 16 ст. тут узнікла права-

Аблога Брэста шведамі ў 1657 З гравюры 18 ст

слаўная школа, у якой адным з першых настаўнікаў быў асветнік Лаўрэнцій *Зізаній*. У горадзе праходзілі сеймы і з'езды бел. і літоўскіх магнатаў. У адпаведнасці з *Люблинскай уніяй 1569* Б. у складзе ВКЛ увайшоў у *Рэч Паспалітую*. Тут абвешчана *Брэсцкая унія 1596*— аб'яднанне на тэр Рэчы Паспалітай праваслаўнай і каталіцкай цэркваў. Горад быў месцам збору ваен. канфедэрацый у 1605 і 1612, сойма Рэчы Паспалітай (1653). У вайне ўкраінскага і беларускага народаў супраць Польшчы задушаны паўстанні гараджан (1648 і 1649). У 1657 горад спалілі шведы, у 1660 занялі рускія, у 1661— польска-літ. войскі. У час *Паўночнай вайны 1700—21* у горадзе былі створаны правіянцкія склады рус. арміі. 2-я пал. 17 ст. і 1-я пал. 18 ст. адзначаны эканам. заняпадам горада, выкліканым войнамі. У выніку 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) горад увайшоў у склад Расійскай імперыі, перайменаваны ў Брэст-Літоўск, абвешчаны пав. горадам Слонімскай, потым Літоўскай, з 1801 Гродзенскай губ. З пачаткам *Айчыннай вайны 1812* горад стаў арэнай ваен. дзеянняў. Неаднаразова ён быў захоплены часцямі напалеонаўскай арміі. Вызвалены рус. арміяй 25.12.1812. Важнае ваенна-стратэг. размяшчэнне Брэст-Літоўска на З Расіі абумовіла выбар яго месцам для будаўніцтва *Брэсцкай крэпасці*. Праект крэпасці распрацаваны рус. ваен. інжынерамі К. І. Оперманам, Малецкім і А. І. Фельдманам (зацверджаны ў 1830). Напачатку былі ўзведзены 4 часовыя ўмацаванні: Цэнтральнае (на месцы былога вакольнага горада, дзе размяшчаўся манастыр базыльян, перабудаваны ў Белы палац); Валынскае (на месцы *Брэсцкага замка*, пабудаванага ў 15 ст з дрэва і каменю); Кобрынскае і Цярэспальскае. У 1833—42 вялася перабудова гэтых умацаванняў. Першы камень будучай крэпасці закладзены 1.6.1836, адкрыта 26 4.1842. У 1864 па прапанове ген. Э. І. Татлебена пачалася 1-я рэканструкцыя крэпасці, у 1911—14 праведзена 2-я яе рэканструкцыя, у якой прымаў удзел Дз. М. *Карбышаў*.

У 1842 у горадзе адкрыты кадэцкі корпус. У 1860-я гады ў Б. было 8 з-даў, 5 тытунёвых ф-к, некалькі майстэрняў, 178 крам, 60 харчэўняў, 5 пастаялых і 2 заезныя дамы, мужчынская прагімназія, з 1874 — прыватная б-ка, з 1885— музычнае таварыства. Пасля завяршэння будаўніцтва чыгунак, што звязвалі Б. з Варшавай (1869), Масквой (1871), Кіевам (1873), Гомелем (1886), горад стаў буйным чыгуначным вузлом. У 1897 у Б. 46 568 жыхароў. Першае рэв. выступленне рабочых адзначана ў 1873 на цагельным з-дзе. У канцы 1905 у горадзе аформілася *Брэсцкая арганізацыя РСДРП*, у пач. 1906 — *Брэсцкая арганізацыя польскай сацыялістычнай партыі ў Літве*. У рэвалюцыю 1905—07 працоўныя горада правялі студзеньскую паліт. стачку 1905, падтрымалі выступленні салідарнасці рабочых Беларусі з пралетарыятам Адэсы і Лодзі 1905. Паліт. работу сярод салдат гарнізона вяла *Брэсцкая ваенна-рэвалюцыйная арганізацыя РСДРП*, якая ўзначаліла *Брэсцкія выступленні салдат 1905 і 1906*. У 1912 у горадзе створана праўдзісцкая група.

У 1-ю сусв. вайну Брэст-Літоўск 26.8(8.9).1915 акупіраваны германскімі войскамі. 3.3.1918 тут падпісаны *Брэсцкі мір 1918* У лютым 1919 горад захоплены войскамі бурж. Польшчы. У сак. створаны *Брэсцкі падпольны камітэт КП(б)ЛіБ*, дзейнічала Брэсцкае камуністычнае падполле. 1.8.1920 у горад увайшлі часці Чырвонай Арміі. 19.8.1920 зноў захоплены войскамі бурж. Польшчы. Паводле *Рыжскага мірнага дагавора 1921* Брэст-Літоўск у складзе Зах. Беларусі адышоў да Польшчы, перайменаваны ў Брэст-над-Бугам. У 1921—39 Б.— цэнтр *Палескага ваяводства*. Тут працавалі чыгуначныя, швейныя, зброевая і механічныя майстэрні, тытуневая ф-ка, гарэлачны з-д акцыянернага т-ва «Познань», піваварны з-д «Карона», лесапільны з-д, млын. Без расійскага рынку страціў былое значэнне *Дняпроўска-Бугскі канал* і чыг. вузел. У 1920—30 дзейнічаў акр. камітэт «Чырвонай дапамогі» — міжнар. арганізацыі помачы барацьбітам рэвалюцыі (МАПР) Зах. Беларусі. На працягу 1923—38 дзейнічалі Брэсцкія акр. і гарадскія арг-цыі КПЗБ, КСМЗБ. У 1922—25 баставалі рабочыя друкарні, тытунёвай ф-кі, лесапільнага з-да, чыгуначнікі, швейнікі і інш. У студз 1927 у Б. адбыўся суд, арганізаваны ўладамі бурж. Польшчы, над групай дзеячаў КПЗБ, у т. л. В. З. Харужай, З. Ф. Паплаўскім. У 1936 у горадзе 18 школ, 5 гімназій, 3 кінатэатры, бібліятэка У 1937 51,2 тыс. жыхароў. 1.9.1939 фаш. Германія напала на Польшчу, 14 вер. захапіла Б. (акрамя крэпасці) 17.9.1939 Чырвоная Армія перайшла сав.-польскую граніцу і 22 вер. ўвайшла ў Б.

На 1.9.1940 у горадзе 17 школ, 2 тэхнікумы, 3 вучылішчы, Рускі драм. тэатр, 68,8 тыс. жыхароў. 22.6 1941 Б. у ліку першых прыняў на сябе ўдар ням -фаш захопнікаў (гл. *Брэста абарона 1941*, *Брэсцкай крэпасці абарона 1941*, *Брэсцкая крэпасць-герой)* Гітлераўцы ўстанавілі ў горадзе жорсткі акупац. рэжым Яны знішчылі тут больш за 40 тыс. сав грамадзян, усе прадпрыемствы і культ.-асветныя ўстановы, 48,7 % жылога фонду. У Б. дзейнічалі Брэсцкія абл. і гарадская антыфаш. арг-цыі (гл. адпаведныя арт.), *Брэсцкае патрыятычнае падполле*, *Брэсцкае камсамольска-маладзежнае падполле*, *Брэсцкі падпольны абком КП(б)Б*, *Брэсцкае партызанскае злучэнне*, Брэсцкі падп. гарком КП(б)Б, у кантакце з якімі працавалі падп. камсамольскія органы. З мая 1942 дзейнічала падп. друкарня, выдаваліся падп. газеты «За Родину» і «Заря». Горад вызвалены 28.7.1944 у ходзе *Люблин-Брэсцкай аперацыі 1944*.

Сучасны Б.— адзін з найбуйнейшых прамысл. цэнтраў Беларусі. Каля палавіны яго таварнай прадукцыі прыпадае на машынабудаванне і металаапрацоўку (машынабудаўнічае вытв. аб'яднанне, з-ды электралямпавы, электратэхнічны, электрамеханічны, «Брэстсельмаш», «Газаапарат»). Разаіты хімічная, дрэваапрацоўчая, паліграфічная галіны. Прадукцыю лёгкай прам-сці выпускаюць дывановае вытв. аб'яднанне, панчошны камбінат, ф-кі верхняга трыкатажу, швейная імя Я. М. Фаміна, харчовай — вытв аб'яднанне «Брэстхлебпрам», мяса- і малочны камбінаты. У горадзе 2 ВНУ 2 тэхнікумы, 2 вучылішчы, 9 прафтэхвучылішчаў, 27 школ, 2 тэатры, 7 кінатэатраў, 90 б-к, 2 музеі (абласны краязнаўчы і Брэсцкай крэпасці-героя), 5 бальніц, раддом, 16 паліклінік, 8 дыспансераў, 61 пункт аховы здароўя, 16 аптэк і інш. Выдаюцца газеты «Заря», «За-

Да арт. Брэст. Уезд у Брэст-Літоўск Паштоўка пачатку 20 ст

ря над Бугом», «Вечерний Брест», «Народная трыбуна».

Помнікі: М. В. Гогалю, У. І. Леніну, А. Міцкевічу, А. В. Сувораву, Герою Сав. Саюза А. М. Карасёву, А. Ф. Наганаву, бюст П. І. Клімука, помнікі Вызвалення, пагранічнікам, сав. воінам-артылерыстам, сав. танкістам, сав. воінам-інтэрнацыяналістам; 72 брацкія магілы сав. воінаў, 5 магіл ахвяр фашызму; мемарыяльны комплекс «Брэсцкая крэпасць-герой», устаноўлена 12 мемарыяльных дошак і інш. Захаваліся помнікі архітэктуры: Брацкая Мікалаеўская і Сімяонаўская цэрквы, кафедральны касцёл.

*Літ.*: Забела Т. І. Места Берасцейскае ў XVI сталецці: (Сац.-экан. нарыс). Мн., 1930; Зоненберг Х. История города Брест-Литовска, 1016—1907: По достоверным источникам и правдоподобным умозаключениям. Варшава, 1908; Штыхов Г. В. Города Белоруссии по летописям и раскопкам (IX — XIII вв.). Мн., 1975; Науменко В. Я. Брест: Ист.-экон. очерк. 2 изд. Мн., 1977; Лысенко П. Ф. Открытие Берестья. Мн., 1989; Брест: Энцикл. справ. Мн., 1987; Свод памятников истории и культуры Белоруссии: Брестская обл. Мн., 1990.

**БРЭ́СТА АБАРО́НА 1941.** Вялася ў пач. Вял. Айч. вайны войскамі 4-й арміі (ген.-м. А. А. Карабкоў) Зах. фронту ў складзе часцей 6-й (палк. М. А. Папсуй-Шапка) і 42-й (ген.-м. І. С. *Лазарэнка*) стралк. дывізій 28-га стралк. корпуса (ген.-м. В. С. *Папоў*), 22-й танкавай дывізіі (ген.-м. В. П. *Пуганаў*), 10-й мяшанай авіядывізіі (палк. М. Г. Бялоў), а таксама воінамі падраздзяленняў 62-га Брэсцкага ўмацаванага раёна, 17-га Брэсцкага пагранатрада (маёр А. П. Кузняцоў), байцамі часцей НКУС і інш. 22.6.1941 на Брэсцкую крэпасць і горад вораг абрушыў агонь больш як 600 гармат і мінамётаў; самалёты 2-га паветр. флоту наносілі ўдары з паветра. На Брэст і ў абыход яго з Пн і Пд наступалі 4 танкавыя дывізіі 2-й танкавай групы (ген.-палк. Гудэрыян), умацаванай 12-м армейскім корпусам у складзе 3 пях. дывізій. У першыя гадзіны пасля нападу адбыліся 3 пасяджэнні бюро абкома пад кіраўніцтвам 1-га сакратара Брэсцкага абкома і гаркома КП(б)Б М. М. Тупіцына, на якіх прыняты рашэнні аб накіраванні нарачных на сувязь са штабам вайск. злучэнняў, на прадпрыемствы і ва ўстановы для арганізацыі тушэння пажараў, дапамогі параненым, высвятлення магчымасцей эвакуацыі насельніцтва па чыгунцы. Артабстрэл горада працягваўся, узнікалі новыя ачагі пажараў, была парушана тэлефонна-тэлеграфная сувязь, працўнік пранік на вуліцы. Было вырашана выводзіць людзей з горада, а дакументы вывезці ці знішчыць. Першымі гітлераўцаў сустрэлі сав. пагранічнікі, у т. л. воіны прылеглых да Брэста застаў: 8-й (ст. лейт. М. Н. Серветнік), 9-й (лейт. А. М. *Кіжаватаў*) і 10-й (лейт. М. К. Ішкоў), з Пд Брэст прыкрывалі 204-ы гаўбічны (пад камандаваннем нач. штаба палка капітана І. А. Лук'янчыкава) і 455-ы карпусны (маёр К. І. Каралёў) артпалкі сумесна з інш. часцямі 28-га стралк. корпуса. Баявыя разлікі гаўбіц нанеслі адчувальныя страты ворагу, асабліва войскам, якія пачалі пераправу цераз Зах. Буг. 204-ы гаўбічны артполк адышоў да в. Жыровіцкая Камяніца і абрушыў агонь гаўбіц на пантонны мост, што ўзводзіўся на Пд ад крэпасці. Потым полк уступіў у адзінаборства з танкавай калонай і мотапяхотай праціўніка, якім удалося фарсіраваць Зах. Буг у раёне в. Дамачава. У гэтым баі знішчаны 18 танкаў і да батальёна пяхоты праціўніка. Лётчыкі 10-й мяшанай авіядывізіі ў складзе 39-га палка скорасных бамбардзіроўшчыкаў (маёр С. М. Захарычаў), 123-га (маёр Б. М. Сурын) і 33-га (маёр М. І. Акулін) знішчальных авіяпалкоў адбівалі налёты праціўніка на Брэст, Кобрын, Пружаны. Лейтэнант С. М. Гудзімаў збіў 2 самалёты праціўніка, у т. л. адзін з іх у 5 гадз 20 мін раніцы таранным ударам над Пружанамі. У 10 гадз раніцы лейт. П. С. Рабцаў здзейсніў над Брэстам паветр. таран. У першы дзень вайны лётчыкі дывізіі збілі больш за 30 самалётаў ворага. На бамбардзіроўку танкавых і механізаваных калон праціўніка ў раёне Брэста вылятаў экіпаж камандзіра эскадрыллі 207-га далёкабамбардзіровачнага палка 42-й авіядывізіі капітана М. Ф. *Гастэлы*. Часці 22-й танкавай дывізіі атакавалі на паўд. ускраіне Брэста варожыя падраздзяленні, якія пераправіліся цераз Зах. Буг, разграмілі дэсант гітлераўцаў на Мухаўцы. На паўн. ускраіне горада бaі вялі воіны 447-га карпуснога (палк. А. А. Маўрын), 131-га (маёр Б. С. Губанаў) і 17-га гаўбічнага (маёр А. В. Навіцкі) артпалкоў, слухачы армейскіх курсаў палітрукоў, байцы 18-га асобнага батальёна сувязі (капітан К. Ф. Касаткін) і інш. падраздзяленняў. Значныя страты ў жывой сіле і тэхніцы ворагу нанеслі воіны 62-га Брэсцкага ўмацаванага раёна. Але намнога большыя сілы праціўніка, абыходзячы крэпасць з Пн і Пд, да 7 гадз раніцы ўварваліся ў горад. Каля Кобрынскага моста націск ворага стрымлівалі пагранічнікі, воіны розных часцей і жыхары горада. Абарону Брэсцкага абл. ваенкамата да вечара вялі каля 80 камандзіраў і байцоў абл., гар., раённага ваенкаматаў, парт., сав. і камсамольскія работнікі пад кіраўніцтвам абл. ваен. камісара М. Я. Стафеева. Да 9 гадз вораг замкнуў кальцо акружэння крэпасці, да 12 гадз на У ад Брэста быў створаны актыўны фронт абароны, у якім удзельнічалі сабраныя з розных часцей атрады пад камандаваннем нам. камандзіра 6-й стралк. дывізіі палк. Ф. А. Асташанкі і камандзіра 42-й стралк. дывізіі ген.-м. А. С. Лазарэнкі. Сілы 6-й і 42-й стралк. дывізій па загаду камандзіра 28-га стралк. корпуса спрабавалі пры падтрымцы танкаў перайсці ў контрнаступленне і авалодаць Брэстам з ПнУ. Ажыццявіць гэты манеўр не ўдалося. Адыход ад Брэста прыкрываў зводны атрад на чале з камандзірам 333-га стралк. палка палк. Дз. М. Мацвеевым. Да канца дня танкавыя злучэнні ворага прасунуліся на У на 50—60 км. Раніцай 23 чэрв. 30-я (палк. С. І. Багданаў) і 22-я танк. дывізіі 14-га механізаванага корпуса (ген.-м. С. І. Аборын) і часці 28-га стралк. корпуса ажыццявілі спробу контрнаступлення на Брэст. На шэрагу ўчасткаў вораг быў адкінуты на некалькі кіламетраў. На рубяжы Камянец — Жабінка — Вялікія Радванічы разгарнулася жорсткая сустрэчная бітва. Пад націскам намнога большых сіл праціўніка сав. воіны вымушаны былі з баямі адступіць, аднак у тыле ворага засталіся ачагі абароны. Больш за месяц абараняліся воіны ў крэпасці (гл. *Брэсцкай крэпасці абарона 1941*). З 22 да 29 чэрв. пагранічнікі, работнікі міліцыі і НКУС, чыгуначнікі і пасажыры пад кіраўніцтвам нач. лінейнага аддзялення міліцыі А. Я. Вараб'ёва, старшыны П. П. Баснева і лейт. М. Шымчанкі абаранялі Брэсцкі вакзал. Ноччу 29 чэрв. апошнія абаронцы вакзала вырваліся з затопленых падвалаў і пайшлі ў лясы. У баях за Брэст праціўніку прычынены значныя страты. У горадзе ням.-фаш. захопнікі ўстанавілі жорсткі акупац. рэжым. Паводле звестак ворага, толькі за першы месяц акупацыі ў Брэсце было загублена 4434 сав. грамадзяніны.

*Літ.*: Буг в огне. 3 изд. Мн., 1977; Науменко В. Я. Брест: Ист.-экон. очерк. 2 изд. Мн., 1977; Павлов Я. С. В суровом сорок первом. Мн., 1985. *Т. М. Ходцава.*

**БРЭСТ-ЛІТО́ЎСК,** назва *Брэста* ў пач. 18 — пач. 20 ст.

**БРЭСТ-ЛІТО́ЎСКАЕ ВАЯВО́ДСТВА,** назва Берасцейскага ваяв. ў ВКЛ у канцы 17—18 ст., гл. *Брэсцкае ваяводства.*

**БРЭСТ-ЛІТО́ЎСКАЯ ЧЫГУ́НКА,** назва ў 1939—51 сеткі чыгуначных ліній, якая звязвала БССР з Зах. Еўропай, Літвой і Украінай і абслугоўвала Баранавіцкую, Брэсцкую, Гродзенскую, Маладзечанскую, Палескую і Пінскую вобл. Уключала чыг. лініі: Высока-Літоўск — Ковель, Брэст — Жыткавічы, Баранавічы — Слуцк, Брэст — Негарэлае, Гродна — Ліда — Маладзечна, Андрэевічы — Баранавічы, Стасілаў — Баранавічы — Лунінец і інш. Агульная даўжыня чыг. ліній 1145 км і 600 км вузкакалейных ліній (1950). Упраўленне чыгункі размяшчалася ў Баранавічах. Друкаваны орган — газ. «Сталинский маршрут» (з 1940). У 1951 аб'яднана з Мінскім аддзяленнем Зах. чыгункі ў Мінскую чыгунку.

**БРЭСТ-НАД-БУ́ГАМ,** назва *Брэста* ў 1921—39.

**БРЭ́СЦКАЕ ВАЯВО́ДСТВА.** Створана ў ВКЛ у 1566 пад назвай *Берасцейскае ваяводства*. Цэнтр — г. Брэст (Бярэсце). Падзялялася на 2 паветы: Брэсцкі, у які ўвайшлі Брэст, тэр. б. Камянецкага пав., і Пінскі, у які ўвайшлі Пінск, тэр. б. Кобрынскага пав., Тураў, Гарадзец, Здзітаў, Дубровіцкае княства. Першы ваявода — Ю. Тышкевіч. З канца 17 ст. ў адрозненне ад Брэст-Куяўскага ваяв. ў Польшчы называлася Брэст-Літоўскім. У 1791 утвораны Кобрынскі і Пінска-Зарэчны (з цэнтрам у Плотніцы) паветы.

У 1792 Пінска-Зарэчны пав. перайменаваны ў Запінскі з цэнтрам у Століне. У 1793 ў выніку 2-га падзелу Рэчы Паспалітай Пінскі пав. увайшоў у склад Расійскай імперыі і стаў паветам Мінскай губ. У 1795 у выніку 3-га падзелу *Рэчы Паспалітай Б. в. скасавана*, большая частка яго тэр. ўвайшла ў Слонімскую губ. Расійскай імперыі. Зах. частка ваяводства адышла да Аўстрыі.

**БРЭ́СЦКАЕ КАМСАМО́ЛЬСКА-МАЛАДЗЁЖНАЕ ПАДПО́ЛЛЕ** ў Вялікую Айчынную вайну. Дзейнічала з ліп. 1941 да ліп. 1944 у акупіраваным ням.-фаш. захопнікамі Брэсце пад кіраўніцтвам *Брэсцкага патрыятычнага падполля* і Брэсцкага падп. гаркома ЛКСМБ. Першая падп. камсамольская арг-цыя створана ў пач. вайны з вучняў старшых класаў сярэдніх школ горада. Падпольшчыкі прымалі па радыё і распаўсюджвалі сярод насельніцтва зводкі Саўінфармбюро, здабывалі бланкі дакументаў для легалізацыі сав. ваеннаслужачых, якія трапілі ў акружэнне. Восенню 1941 большасць падпольшчыкаў арыштавана. У жн. 1941 рашэннем гар. парт. камітэта створана 2-я падп. камсамольская арг-цыя, куды ўвайшлі У. А. Несцярэнка (сакратар), Г. А. Аржанава, М. Я. Жыгімонт, В. Н. Лупейка, Б. М. Пікус, Л. В. Папова (члены бюро), а таксама Г. В. Касаткіна, В. С. Краўцова, М. М. Панамарова, Ф. Я. Тронкіна, Н. Д. Чарняўская, М. А. Шошчыц. Падп. групы ўзначальвалі Г. К. Баннікаў, Папова, Пікус, Шошчыц. Камсамольцы арганізавалі збор цёплага адзення, зброі, боепрыпасаў для партызан, перадалі ім 20 вінтовак, 6 аўтаматаў, 12 скрынак гранат, 17 тыс. патронаў, 120 кг толу, наладжвалі ўцёкі ваеннапалонных, мелі на канспіратыўных кватэрах некалькі радыёпрыёмнікаў, прымалі, размнажалі і распаўсюджвалі зводкі Саўінфармбюро, матэрыялы з сав. газет, рабілі дыверсіі на чыг. вузле, здабывалі разведданыя, медыкаменты. Каб мець доступ да медыкаментаў, накіравалі ў аптэку Аржанаву. У фонд Чырвонай Арміі сабралі 10 тыс. руб. грашыма і аблігацыямі. У 1942 група падпольшчыкаў, у т. л. Несцярэнка, пайшла да партызан, арг-цыю ўзначаліў Баннікаў. На працягу 1941—43 каля 30 камсамольцаў прымалі ўдзел у рабоце патрыятычнага падполля або дзейнічалі ў адзіночку. *Б. І. Камейша.*

**БРЭ́СЦКАЕ ПАРТЫЗА́НСКАЕ ЗЛУЧЭ́ННЕ** ў Вялікую Айчынную вайну. Створана ў крас.— чэрв. 1943 паводле рашэння *Брэсцкага падпольнага абкома КП(б)Б* на базе асобных атрадаў. За перыяд баявой дзейнасці (крас. 1943 — ліп. 1944) аб'ядноўвала больш за 13 тыс. партызан. Камандзір С. І. Сікорскі, нач. штаба П. В. Пранягін. Паводле распараджэння БШПР, у лют. 1944 для барацьбы супраць карнікаў была створана часовая групоўка партыз. брыгад і атрадаў Пауд. зоны (узначаліў упаўнаважаны штаба партыз. злучэння вобласці П. М. Кавальскі), Б. п. з. аб'ядноўвала 11 партыз. брыгад: 8-ю, 99-ю імя Дз. Ц. Гуляева, 150-ю імя Ф. М. Языковіча, «За Радзіму» імя А. К. Флегантава, імя Дзяржынскага, імя Леніна, імя Панамарэнкі, імя Свярдлова, імя Сталіна, імя Чапаева, «Савецкая Беларусь», 12 асобна дзеючых партыз. атрадаў: 345-ы, 347-ы, «За Радзіму», імя Будзённага, імя Катоўскага, *імя Кірава, імя Кутузава, імя Шчорса, «Сцяг», «Чэкіст»*, імя Катоўскага (2-га складу), імя П. Л. Валькова. З часцямі Чырвонай Арміі брыгады і атрады злучаліся паступова, па меры вызвалення раёнаў іх дыслакацыі. С. Г. Жуніну і С. І. Сікорскаму прысвоена званне Героя Сав. Саюза.

*Літ.*: Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944). Мн., 1983.

**БРЭ́СЦКАЕ ПАТРЫЯТЫ́ЧНАЕ ПАДПО́ЛЛЕ** ў Вялікую Айчынную вайну. Дзейнічала са жн. 1941 да 28.7.1944 у акупіраваным ням.-фаш. захопнікамі Брэсце. З крас. 1943 работай падполля кіраваў *Брэсцкі падпольны абком КП(б)Б*, з мая 1944 — і Брэсцкі падп. гарком КП(б)Б. Ініцыятарам стварэння ў Брэсце падп. партыйнай арг-цыі стаў даваенны сакратар парткома Брэсцкага чыг. вузла П. Г. Жулікаў. Ён далучыў да падп. дзейнасці камуністаў Ф. М. Гаўрылава, Б. С. Дзабіева, М. М. Жыгімонта, І. Б. Сцепаненку, М. М. Голубева, А. М. Самычэнку і інш. Р. С. Радкевіч, якая да вайны працавала інструктарам Брэсцкага гаркома КП(б)Б, арганізавала 2-ю групу, у якую ўвайшлі Г. Ц. Ароніна, Г. М. Бабушкіна, Н. А. Камолава, Т. М. Смірнова, А. І. Хромава, З. І. Южная і інш. У жн. 1941 на канспіратыўнай сустрэчы прадстаўнікоў гэтых груп створаны парт. цэнтр, названы гар. камітэтам партыі. У яго ўвайшлі Жулікаў (1-ы сакратар), Радкевіч (2-і сакратар), С. М. Аношын, Дзабіеў, Жыгімонт, Самычэнка; інструктарамі прызначаны Бабушкіна, Смірнова, Хромава, Южная; прапагандыстамі — Ароніна і Камолава. Да канца 1941 на ўлік узяты больш за 100 камуністаў. Падп. партыйная арг-цыя складалася з груп, якія ўзначалілі Голубеў, В. І. Горын, В. М. Мельнікаў, К. Р. Рэпікаў, Самычэнка (усе загінулі) і інш. Для кіраўніцтва работай моладзі было створана бюро камсамольскай арг-цыі на чале з У. А. Несцярэнкам. Групамі беспарт. патрыётаў кіравалі П. Г. Голубева, А. А. Горная, М. Я. Жыгімонт, Н. І. Ільіна, Г. К. Караткова, К. А. Каструбенка, Л. І. Крашэнінікава, Л. І. Кулік, А. І. Літвінава і інш.

Падпольшчыкі прымалі, размнажалі і распаўсюджвалі сярод насельніцтва зводкі Саўінфармбюро, збіралі зброю і боепрыпасы, цёплае адзенне і медыкаменты для партызан, арганізоўвалі ўцёкі ваеннапалонных з фаш. лагераў. Канспіратыўныя кватэры трымалі Грачоў, Зорына, Крашэннікава, Літвінава, В. Н. Марозава, Рэпікаў, К. Ц. Сімянкова; на кватэры Г. М. Сенакосавай са жн. 1941 хавалі зброю і боепрыпасы. Восенню 1941 наладзілі сувязь са Старасельскім партыз. атрадам (пазней імя М. М. Чарнака). У крас. 1942 зроблена спроба падпольшчыкаў горада стварыць партыз. атрад; пазней 25 падпольшчыкаў, якім пагражаў арышт, пайшлі да партызан. У жн. 1942 для кіраўніцтва арг-цыямі створана новае бюро, куды ўвайшлі Жулікаў (сакратар), М. М. Жыгімонт, Дзабіеў, Южная, з чэрв. 1943 і А. Г. Серафімовіч. *Летам і восенню 1942 падпольшчыкі сарвалі* мерапрыемствы акупац. улад па вывазе моладзі ў Германію, рэквізіцыі ў насельніцтва цёплых рэчаў для ням. арміі, сабралі больш за 300 тыс. руб. у фонд абароны краіны. У 1942—43 толькі атраду Чарнака яны перадалі 5 кулямётаў, 6 аўтаматаў, 70 вінтовак, 65 пісталетаў, сотні гранат, больш за 60 тыс. патронаў. У маі 1943 пераправілі *Брэсцкаму міжраённаму «Камітэту барацьбы з нямецкімі акупантамі»* шрыфт і друкарскае абсталяванне. Падпольшчыкі вывелі са строю 6 паравозаў, зрывалі рамонт вагонаў, пуск ліцейнага цэха, псавалі станкі і абсталяванне.

Арышт вясной і восенню 1943 групы падпольшчыкаў нанёс цяжкі ўдар падполлю. Тыя, што засталіся жывыя (каля 30 чал.), працягвалі барацьбу. З кастр. 1943 падп. арг-цыю ўзначаліла Смірнова. У склад бюро ўвайшлі: Дзабіеў, Камолава, Літвінава. У горад дастаўлялі газеты «Правда», «Известия», «Заря», баявыя лісткі і інш. паліт. л-ру. Падпольшчыкі разам з дыверсійнымі групамі партыз. атрадаў імя Чарнака, імя Чкалава і інш., што дзейнічалі вакол Брэста, правялі шэраг баявых аперацый: знішчылі шашэйны мост цераз р. Мухавец, сапсавалі 3 паравозы ў чыг. дэпо, узарвалі бензакалонку, парахавы склад, афіцэрскую сталовую і інш. Арг-цыя кіравала *Брэсцкім камсамольска-маладзёжным падполлем*, мела сувязь з *Брэсцкай гарадской антыфашысцкай арганізацыяй.*

*Л. В. Аржаева, Б. І. Камейша*

**БРЭ́СЦКАЕ ТАВАРЫ́СТВА ЎРАЧО́Ў.** Існавала ў Брэсце ў 1903—15. Аб'ядноўвала ўсіх урачоў горада: у 1903 — 28 чал., у 1907—21. Старшыня Л. І. Ястражамбецкі-Дзем'яновіч, віцэ-старшыня К. І. Штарк, сакратар-казначэй С. Б. Дзямідовіч, бібліятэкар Б. Б. Хват. Мела статут, які прадугледжваў вывучэнне санітарнага становішча Гродзенскай губ., збор і вывучэнне матэрыялаў па медыцынскай статыстыцы; наладжванне публічных чытанняў, выданне папулярных твораў для распаўсюджвання ў народзе ведаў па праблемах агульнай і асабістай гігіены і інш.; садзейнічанне мясц. адміністрацыі ў стварэнні сельскіх урачэбных пунктаў; уладкаванне клінік, узаемны абмен практычнымі назіраннямі за развіццём хвароб і найб. паспяховымі спосабамі іх лячэння і інш. Спыніла дзейнасць у сувязі з 1-й сусв. вайной. *А. П. Малчанаў*

**БРЭ́СЦКАЕ ТА́ЙНАЕ ТАВАРЫ́СТВА РАБО́ЧЫХ І РАМЕ́СНІКАЎ,** першая ў Брэсце нелегальная рабочая арг-цыя, створаная «з мэтай правядзення стачак». Дзейнічала ў 1895—97. Кіраўнікі: І. Ізбіцкі, А. Левін, О. Сарна, Х. Галдацкі

(інтэлігенты), Н. Літвак, Я. Грынберг і інш. (рабочыя). Члены т-ва на сходах чыталі агітацыйную л-ру (брашуры «Рабочы дзень», «Хто чым жыве?»), вучылі рабочых дзейнічаць супольна, дамагаліся спынення работы на ўсіх прадпрыемствах горада не пазней 9 гадз вечара, не дапускалі штрэйкбрэхераў у тыя майстэрні, дзе адбываліся стачкі, распаўсюджвалі нелегальную л-ру, у т. л. «Рабочую газету». У 1896—97 кіравала эканам. забастоўкамі 700 работніц гільзавых прадпрыемстваў, 200 краўцоў, а таксама сталяроў, рымараў, вучняў слесараў, якія патрабавалі скарачэння рабочага дня да 12 гадз, павелічэння заработнай платы. Забастоўкі краўцоў і сталяроў працягваліся каля 3 тыдняў, амаль усе скончыліся перамогай рабочых. 18(30).4.1897 у лесе каля в. Вычулкі Брэсцкага пав. праведзена адна з першых на Беларусі маёвак. Таварыства перастала існаваць пасля арышту 17 яго членаў. *М. В. Біч.*

**БРЭ́СЦКАЙ КРЭ́ПАСЦІ АБАРО́НА 1941,** гераічная абарона Брэсцкай крэпасці сав. войскамі ў пачатку Вял. Айч. вайны (22 чэрв.— канец ліп. 1941). Напярэдадні вайны ў крэпасці дыслацыраваліся часці 6-й і 42-й стралк. дывізій 4-й арміі, падраздзяленні 17-га Брэсцкага пагранатрада, 33-га асобнага інжынернага палка, частка 132-га батальёна войск НКУС, штабы часцей. Некаторыя часці або іх падраздзяленні знаходзіліся ў лагерах, на палігонах, на будаўніцтве ўмацаванага раёна. На час нападу ням.-фаш. захопнікаў у крэпасці было ад 7 да 8 тыс. сав. воінаў, жыло 300 сем'яў ваеннаслужачых. У першыя гадзіны вайны Брэст і крэпасць былі падвергнуты масіраванаму артабстрэлу і авіябамбардзіроўцы. У выніку большасць складоў, інш. ваен. аб'ектаў, водаправод былі разбураны, перарвана сувязь; значная частка байцоў і камандзіраў выведзены са строю, гарнізон крэпасці расчлянёны на асобныя групы. Цяжкія баі разгарнуліся на граніцы, у горадзе і крэпасці. Штурмавалі крэпасць ням. 45-я пях. дывізія (каля 17 тыс. салдат і афіцэраў) ва ўзаемадзеянні з 31-й і 34-й пях. дывізіямі 12-га армейскага корпуса 4-й ням. арміі, а таксама 2 танкавыя дывізіі 2-й танкавай групы Гудэрыяна пры падтрымцы авіяцыі і часцей узмацнення, якія мелі на ўзбраенні цяжкія артылерыйскія сістэмы. Праціўнік ставіў за мэту, выкарыстаўшы раптоўнасць нападу, захапіць Цытадэль, потым інш. ўмацаванні і прымусіць сав. гарнізон да капітуляцыі. Перадавыя часці 45-й ням. дывізіі спрабавалі з ходу авалодаць крэпасцю (паводле плана ням. камандавання да 12 гадзін дня). Упартае супраціўленне сав. воінаў і пагранічнікаў дало магчымасць раніцай 22 чэрв. выйсці з крэпасці прыблізна палавіне асабовага складу ў раёны сканцэнтравання сваіх часцей, эвакуіраваць першых параненых. У крэпасці засталося 3,5—4 тыс. сав. воінаў. Праціўнік меў амаль у 10 разоў большыя сілы. У 1-ы дзень баёў да 9 гадзін раніцы крэпасць была абкружана. Штурмавыя групы ворага праз Цярэспальскае ўмацаванне і мост каля Цярэспальскіх варот прарваліся ў Цытадэль, захапілі будынак палкавога клуба (там пакінулі карэкціроўшчыкаў артылерыйскага агню). Адначасова праціўнік развіў наступленне ў напрамку Холмскіх і Брэсцкіх варот, мяркуючы злучыцца з групамі, што наступалі з боку Валынскага і Кобрынскага ўмацаванняў. Вораг быў выбіты з Цытадэлі. Толькі нешматлікія ням. аўтаматчыкі ўкрыліся ў будынках клуба і сталоўкі начсаставу (на 2-і дзень былі знішчаны), якія потым не раз пераходзілі з рук у рукі. Праціўнік захапіў і некалькі казематаў апусцелых казармаў 132-га батальёна. На працягу 1-га дня абаронцамі адбіта 8 жорсткіх атак пяхоты ворага. Баі ў крэпасці прынялі зацяжны характар, чаго не чакаў праціўнік. Амаль адначасова баі разгарнуліся на тэр. ўсіх умацаванняў. Абаронцаў узначалілі камандзіры і палітработнікі, у асобных выпадках — радавыя байцы. На тэр. Цярэспальскага ўмацавання абарону ўзначалілі ст. лейтэнанты Ф. М. Мельнікаў і А. С. Чорны, лейтэнант Жданаў. Пагранічнікі ачысцілі ад праціўніка большую частку тэр. ўмацаванняў, аднак з-за недахопу боепрыпасаў і вял. страт утрымаць яе не маглі. У ноч на 25 і 30 чэрв.

АБАРОНА БРЭСЦКАЙ КРЭПАСЦІ 1941 г



яны групамі фарсіравалі Зах. Буг і далучыліся да абаронцаў Цытадэлі і Кобрынскага ўмацавання. На Валынскім умацаванні размяшчаліся шпіталі, медыка-санітарны батальён, частка асабовага складу палкавой школы малодшых камандзіраў 84-га стралк палка, нарады 9-й пагранзаставы. Абарону ў межах шпіталя арганізавалі батальённы камісар М. С. Багацееў і ваенурач 2-га рангу С С Бабкін, на астатняй тэр. яна мела ачаговы характар і працягвалася да канца тыдня. Некаторыя байцы ўліліся ў рады абаронцаў Цытадэлі, нямногія прабіліся з варожага акружэння. У Цытадэлі — самым буйным вузле абароны — да канца дня 22 чэрв. вызначыліся асобныя ўчасткі абароны у раёне Цярэспальскіх варот яе ўзначалілі нач. 9-й пагранзаставы А. М. *Кіжаватаў*, лейтэнанты А. Я Патапаў і А. С. Санін, ст. лейтэнант М. Г Сямёнаў (з 333-га стралк. палка), камандзір 31-га аўтабата Я. Дз Мінакоў; воіны 132-га батальёна — мал. сяржант К. П. Новікаў; групу байцоў у вежы Цярэспальскіх варот — лейтэнант А. Ф. Наганаў. У паўн. частцы абаронцай казармы з ворагам змагаліся байцы 44-га стралк. палка пад камандаваннем капітана І. М. Зубачова, ст. лейт. А. П. Семяненка і В. І. Бытко, каля Брэсцкіх варот — воіны 455-га стралк. палка пад камандаваннем лейтэнанта А. А. Вінаградава і палітрука П. П. Кашкарова. Кіраўніцтва абаронай у казарме 33-га асобнага інжынернага палка ўзначаліў ст. лейтэнант М. Ф. Шчарбакоў, у раёне Белага палаца — лейтэнант А. М. Нагай і радавы А. К. Шугураў, у раёне размяшчэння 84-га стралк. палка, будынку інжынернага ўпраўлення — палкавы камісар Я М. Фамін 24 чэрв на нарадзе камандзіраў і палітработнікаў было вырашана стварыць зводную баявую групу. Паводле загаду № 1 камандзірам групы прызначаны капітан Зубачоў, яго намеснікам — палкавы камісар Фамін. Практычна яны змаглі ўзначаліць абарону толькі ў Цытадэлі. Штаб у сваёй дзейнасці апіраўся на камуністаў, камсамольцаў, парт. арг-цыі, якія ствараліся ў ходзе баёў. Паводле рашэння камандавання былі зроблены спробы прарваць кальцо акружэння, аднак беспаспяхова. На Кобрынскім умацаванні ў раёне Зах фронту і дамоў начсаставу абарону, якая працягвалася 3 дні, узначалілі капітан У В Шаблоўскі і ст. палітрук І М. Пачэрнікаў У раёне Усх. варот амаль 2 тыдні змагаліся байцы 98-га асобнага процітанкавага артылерыйскага дывізіёна на чале з лейтэнантам І П. Акімачкіным і ст. палітруком М В Несцерчуком У паўн. частцы гал. вала і ў раёне Паўн. варот 2 дні стрымлівалі ворага сав воіны, потым адышлі ва Усх. рэдзюіт (форт), дзе абарону трымалі байцы 393-га асобнага зенітна-артылерыйскага дывізіёна, 333-га стралк палка, воіны інш часцей (каля 400 байцоў і камандзіраў) пад кіраўніцтвам маёра П. М. *Гаўрылава*, палітрука С. С. Скрыпніка, капітана К. Ф. Касаткіна У ходзе баёў была створана парт. арг-цыя, разгорнуты лазарэт, які ўзначаліла лейтэнант медыцынскай службы Р. І Абакумава. У поўным акружэнні, без вады і прадуктаў, пры вострай нястачы боепрыпасаў і медыкаментаў гарнізон мужна змагаўся, адбіваючы па 6—8 атак за дзень. Разам з байцамі былі жанчыны і дзеці Яны дапамагалі параненым, падносілі патроны, удзельнічалі ў баях. Толькі за першыя 9 дзён абаронцы крэпасці вывелі са строю каля 1,5 тыс. салдат і афіцэраў праціўніка. Да канца чэрв. вораг захапіў большую частку тэр. крэпасці. 29 і 30 чэрв гітлераўцы вялі бесперапынны 2-сутачны штурм з выкарыстаннем 500- і 1800-кілаграмовых авіябомбаў У выніку крывапралітных баёў і вял. страт абарона распалася на шэраг ізаляваных ачагоў супраціўлення. Да 12 ліп. ва Усх. форце вяла баі група сав. байцоў. Пазней, вырваўшыся з форта, яна змагалася ў капаніры за знешнім валам умацавання. Цяжка паранены Гаўрылаў і зампалітрука Р. Д. Дзеравянка трапілі ў палон 23 ліпеня. Сав. воіны працягвалі змагацца з ворагам і пасля 20 ліп. Апошнія дні барацьбы авеяны легендамі. Да гэтых дзён адносяцца надпісы, што пакінулі на сценах крэпасці яе абаронцы. «Памром, але з крэпасці не пойдзем», «Я паміраю, але не здаюся. Бывай, Радзіма. 20.VII.41 г.». Абарона крэпасці — прыклад мужнасці і стойкасці сав. народа ў барацьбе за свабоду і незалежнасць Радзімы. Абаронцы крэпасці — воіны больш як 30 нацыянальнасцей СССР — да канца выканалі свой абавязак перад Радзімай, здзейснілі адзін з найвялікшых подзвігаў сав. народа ў гісторыі Вял. Айч. вайны. Удзельнікі абароны ўзнагароджаны ордэнамі і медалямі, званне Героя Сав Саюза прысвоена Гаўрылаву і Кіжаватаву. 8.5.1965 крэпасці прысвоена ганаровае званне «Крэпасць-герой» з уручэннем ордэна Леніна і медаля «Залатая Зорка» На тэр крэпасці створаны *Брэсцкай крэпасці-героя музей*, адкрыты мемарыяльны комплекс *Брэсцкая крэпасць-герой*; адна з вуліц горада названа вуліцай Герояў абароны Брэсцкай крэпасці.

*Літ* Смирнов С С Брестская крепость М, 1970, Брестская крепость Путеводитель по местам боев 8 изд Мн, 1970, Героическая оборона Сб воспоминаний об обороне Брестской крепости в июне — июле 1941 г 4 изд Мн, 1971, Буг в огне 3 изд Мн, 1977, Гаврилов П М Сражается крепость 2 изд Краснодар, 1980, Аникин В И Брестская крепость — крепость-герой 2 изд М, 1985 *Т М Ходцава*

**БРЭ́СЦКАЙ КРЭ́ПАСЦІ-ГЕРО́Я МУЗЕ́Й,** Музей абароны Брэсцкай крэпасці Адкрыты 8 11 1956 Састаўная частка мемарыяльнага комплексу *Брэсцкая крэпасць-герой* Размешчаны ў былой кальцавой казарме, якая захавалася на цэнтр. востраве крэпасці (Цытадэлі) Мае 11 экспазіцыйных залаў (пл. 1378 м$^2$), каля 40 тыс. экспанатаў, у т л. больш за 21 тыс экспанатаў асн. фонду (1990). Тэматычныя раздзелы экспазіцыі гісторыя крэпасці, перадваеннае жыццё гарнізона Брэста, мерапрыемствы па ўмацаванні зах. рубяжоў Сав. Саюза; вераломны напад фаш. Германіі на СССР; дзейнасць кампартыі і Сав. ўрада па арганізацыі адпору ворагу, прыгранічныя баі часцей і злучэнняў 4-й арміі Зах. фронту, 17-га Чырванасцяжнага пагранатрада, 132-га асобнага батальёна войск НКДБ; гераічная абарона Брэсцкай крэпасці, (гл. *Брэсцкай крэпасці абарона 1941), Люблін-Брэсцкая аперацыя 1944* войск 1-га Бел. фронту, Брэсцкая крэпасць-герой — усенародная школа патрыят. і інтэрнац выхавання. Асноўнае ў экспазіцыі — гераічная абарона крэпасці. Найбольш каштоўныя экспанаты — прадметы, знойдзеныя пры раскопках: сцяг 393-га асобнага зенітнага артылерыйскага дывізіёна, выратаваны абаронцамі крэпасці, загад № 1 па гарнізоне ад 24.6.1941, надпіс на цаглінах «Умираем не срамя», пакінуты абаронцамі; камсамольскі білет А. Ф Наганава; абгарэлы партбілет невядомага воіна, аплаўленыя цагліны з казематаў; медальёны загінуўшых воінаў з іх развітальнымі запісамі, зброя, гадзіннікі, будзільнік, які спыніўся ў першыя хвіліны артабстрэлу, кавалкі металу з дахаў будынкаў з мноствам асколачных і кулявых прабоін і інш., а таксама асабістыя рэчы воінаў, перададзеныя іх сем'ямі; трафейныя дакументы, у т. л. фотаздымкі, зробленыя ў час баёў за крэпасць. Сярод экспанатаў — матэрыялы пра Героя Сав. Саюза Дз. М. *Карбышава*, які ў 1911—14 удзельнічаў у рэканструкцыі крэпасці. Экспанаты расказваюць пра абаронцаў крэпасці, якія пазней змагаліся на франтах Вял. Айч вайны, удзельнічалі ў партыз. руху, у руху Супраціўлення ў краінах Зах. Еўропы, у т л. пра Герояў Сав. Саюза М. І. Мяснікова, І. С. *Лазарэнку* і інш., вызваленне Беларусі ад ням.-фаш захопнікаў, у т л. пра часці і злучэнні, воінаў, што вызначыліся пры вызваленні Брэста На адным са стэндаў — ордэн Леніна і медаль «Залатая Зорка», якімі ўзнагароджана Брэсцкая крэпасць. Экспануюцца работы мастакоў і скульптараў, якія адлюстроўваюць подзвіг абаронцаў крэпасці. Прадстаўлены скульптурныя партрэты Герояў Сав. Саюза П. М. *Гаўрылава* і А. М. *Кіжаватава*, кіраўнікоў абароны Цытадэлі І. Н Зубачова і Я. М. Фаміна. Асобны стэнд прысвечаны рус. сав. пісьменніку С Смірнову, які зрабіў вял. ўклад у раскрыццё бессмяротнага подзвігу ўдзельнікаў абароны крэпасці. У 2 кіназалах дэманструюцца хранікальна-дакумент. фільмы пра гераічную абарону крэпасці У паўд.-ўсх казематах у 1984 адкрыты музей «Хлапчукі бессмяротнага Брэста» Музей мае перасоўныя выстаўкі на рэфрыжэратары «Брэсцкая крэпасць», сухагрузах «Андрэй Кіжаватаў» і «Нюра Кіжаватава», цеплаходах «Пётр Гаўрылаў» і «Сяргей Смірноў» З удзелам супрацоўнікаў музея складзены і выдадзены зборнікі ўспамінаў «Гераічная абарона», «Буг у агні», зборнікі артыкулаў і нарысаў «Героі Брэста», альбомы «Крэпасць-герой», «Стаялі насмерць», «Калі б камяні маглі

гаварыць», серыі буклетаў «Героі Брэсцкай крэпасці», «Даведнік па месцах баёў», даведнік «Музей абароны Брэсцкай крэпасці», фотаальбом «Брэсцкая крэпасць-герой» і інш. *П. Н. Панасюк.*

**БРЭ́СЦКА - КО́БРЫНСКА-ПРУЖА́НСКІЯ ВЫСТУПЛЕ́ННІ СЯЛЯ́Н** 1-й чвэрці 19 ст., масавыя выступленні жыхароў мястэчак і вёсак Брэсцкага, Кобрынскага і Пружанскага пав. Гродзенскай губ. супраць запрыгоньвання іх пасля далучэння да Расійскай імперыі (канец 18 ст.). Працягваліся (з невял. перапынкамі) больш за 20 гадоў, найб. сілы дасягнулі ў 1818—23, калі ў хваляваннях адначасова ўдзельнічала каля 10 тыс. сялян. Местачкоўцы, якія лічылі сябе асабіста свабоднымі, былі абураны тым, што на іх усклалі адработачныя павіннасці, а найлепшыя ворыўныя землі і сенакосы адабралі на карысць памешчыкаў. Адмаўляючыся выконваць павіннасці, сяляне пасылалі скаргі на імя цара, яго намесніка ў Варшаве вял. князя Канстанціна Паўлавіча, віленскага ген.-губернатара, але падтрымкі не знаходзілі, што падштурхоўвала іх да больш актыўных дзеянняў. Самай працяглай і наступальнай была барацьба жыхароў мяст. Мальча Пружанскага пав. (гл. *Мальчанскія выступленні сялян 1805—23*). Хваляванне ў Мілейчыцах Брэсцкага пав. пачалося ў 1816, калі сяляне запатрабавалі вызваліць іх з-пад улады памешчыка Клейна. У 1820 яны зноў адмовіліся ад выканання павіннасцей, захапілі на памешчыцкім сенакосе, які лічылі сваім, 50 вазоў сена, збілі аканома і стражніка і ўзялі ў сваё карыстанне 45 маргоў зямлі, а летам 1822 падпалілі панскі фальварак. Чарговае хваляванне ў Мілейчыцах у 1824 было задушана вайсковай камандай. Падобныя падзеі адбываліся ў 1819—20 у Дзівіне Кобрынскага пав. Сяляне мяст. Камянец Брэсцкага пав., навакольных вёсак Вугляны, Голы Барок, Жданкі, Камароўшчына, Марцінкі і Чабаны (усе належалі графу Віельгорскаму), а таксама маёнтка Муржын ген.-лейт. Гальберга, выбраўшы сваіх паверaных (шляхціца Руберта і мяшчан Пазялеўскага, Ермаловіча і Шарконскага), пачалі ў 1818 судовы працэс за вяртанне ім вольнасцей. Працяглая барацьба гуртавала і ўмацоўвала сялян. У 1820 яны аднадушна адмовіліся ад выканання ўсіх павіннасцей і прысягнулі ў царкве трымацца цвёрда, не падпарадкоўвацца памешчыкам. Па распараджэнні віленскага ген.-губернатара ў Брэсцкі пав. было накіравана 5 рот салдат. Многіх сялян пакаралі розгамі, некаторых аддалі пад суд. На памешчыцкія палі выйшлі толькі пад наглядам вайсковых каманд. «Аднаўленне парадку» ў паўд.-зах. паветах Гродзенскай губ. адбывалася марудна, апошнія ачагі выступленняў задушаны толькі ў канцы 1820-х гадоў.

*Літ.:* Чепко В. В. Классовая борьба в белорусской деревне в первой половине XIX в. Мн., 1972. С. 127—135. *В. У. Чапко.*

**БРЭ́СЦКА-ПРУЖА́НСКІЯ ВЫСТУПЛЕ́ННІ СЯЛЯ́Н 1906.** У чэрв.— ліп. сяляне Брэст-Літоўскага і Пружанскага пав. Гродзенскай губ. пад уплывам рэв. прапаганды выступалі супраць *памешчыцкага прыгнёту і землекарыстання.* У Пружанскім пав. парабкі і падзёншчыкі патрабавалі павялічыць плату за сельгасработы, не дапускалі да работы штрэйкбрэхераў; сяляне пасвілі сваю жывёлу на землях маёнткаў Лінова і Мікіцічы памешчыка Трамбіцкага, Ківацічы — Ляскоўскага, Зіновіль — Віславуха, Каралін і Абержа — Чарноцкага, Ліноўка — Утгофа, Іалін — Быхаўца, Шэні — Дзяконскага. Да ліп. 1906 хваляванні ахапілі 11 валасцей павета (з 19). Забастоўкі адбыліся ў маёнтках Антаны, Баранкі, Вістычы, Высока-Літоўск, Кабакі, Лісоўчыцы, Лумна, Лышчыцы, Прытулін, Ставы, Сухаўшчына, Тумін. У Брэст-Літоўскім пав. найбольш актыўна выступілі сяляне наваколля Камянца. Яны дамагаліся павышэння аплаты працы, самавольна пасвілі жывёлу на памешчыцкіх сенажацях, секлі лес. Для задушэння гэтых выступленняў улады накіравалі 5 эскадронаў кавалерыі і 12 рот пяхоты. Жыхары шэрага вёсак аказвалі войскам супраціўленне, былі забітыя і параненыя. У в. Бардзёўка, акружанай землямі графіні Патоцкай, салдаты адкрылі агонь па натоўпе сялян, якія хацелі зняць парабкаў з уборкі жыта. 6 чал. было забіта, 7 паранена (з іх 3 смяротна), шмат арыштавана. Войскі знаходзіліся ў Брэст-Літоўскім і Пружанскім пав. да ліст. 1906. Памешчыкі былі вымушаны павялічыць плату парабкам і падзёншчыкам.

*Літ.:* Революционное движение в Белоруссии 1905—1907 гг.: Документы и материалы. Мн., 1955; Шабуня К. И. Аграрный вопрос и крестьянское движение в Белоруссии в революции *1905—1907* гг. Мн., 1962. *А. І. Марозава.*

**БРЭ́СЦКАЯ АБЛАСНА́Я АНТЫФАШЫ́СЦКАЯ АРГАНІЗА́ЦЫЯ** ў Вялікую Айчынную вайну. Дзейнічала з мая 1942 да ліп. 1944 на тэр. паўн. і цэнтр. раёнаў Брэсцкай вобл. і суседніх раёнаў Беластоцкай і Баранавіцкай абл. на чале з *Брэсцкім міжраённым «Камітэтам барацьбы з нямецкімі акупантамі»*, з ліп. 1943 — *Брэсцкім абласным антыфашысцкім камітэтам* пад кіраўніцтвам *Брэсцкага падпольнага абкома КП(б)Б.*

Для арганізацыі барацьбы супраць ням.-фаш. захопнікаў у жн. 1941 ЦК КП(б)Б накіраваў на Брэстчыну камуністаў, былых дзеячаў КПЗБ І. П. *Урбановіча* і І. І. *Жышку.* У стварэнні і аб'яднанні ячэек у падп. раённыя антыфаш. арг-цыі ў вобласці ўдзельнічалі Я. М. Афанасьеў, А. М. Дурэйка, М. Е. Крыштафовіч, І. П. Лапін, Н. В. Макарэвіч, М. Ф. Трында, В. В. Янушка і інш. Яны стварылі Камянецкі, Пружанскі, Ружанскі і Шарашоўскі раённыя антыфаш. камітэты. 12.5.1942 арганізаваны міжраённы «Камітэт барацьбы з нямецкімі акупантамі», які накіроўваў работу падраённых і раённых антыфаш. арг-цый, вял. ўвагу аддаваў разгортванню партыз. руху, стварэнню ў партыз. атрадах парт. і камсамольскіх арг-цый. Да восені 1942 антыфаш. арг-цыі і партыз. атрады дзейнічалі ў Бярозаўскім, Брэсцкім, Камянецкім, Косаўскім, Поразаўскім, Пружанскім, Шарашоўскім, а пазней і ў інш. раёнах Брэсцкай, Баранавіцкай і Беластоцкай абл. Да лета 1943 7 партыз. атрадаў, што дзейнічалі пад кіраўніцтвам «Камітэта барацьбы...», налічвалі больш за 1400 чал., падп. антыфаш. арг-цыі — 540. Са жн. 1942 да ліп. 1944 дзейнічала разгалінаваная *Брэсцкая гарадская антыфашысцкая арганізацыя.* Падпольшчыкі вялі паліт. работу сярод насельніцтва, выкрывалі хлуслівую фаш. прапаганду, заклікалі да барацьбы супраць ням.-фаш. захопнікаў. З чэрв. 1942 дзейнічала друкарня Брэсцкага абл. антыфаш. к-та. Раённыя антыфаш. к-ты працавалі пад кіраўніцтвам падп. райкомаў партыі і ў цесным кантакце з імі. У ліп. 1943 на базе міжраённага «Камітэта барацьбы...» створаны Брэсцкі абл. антыфаш. камітэт. Дзейнасць падп. парт. і камсамольскіх органаў, а таксама рэарганізацыя кіраўніцтва абл. антыфаш. арг-цый актывізавалі работу яе нізавых звёнаў. З вер. 1943 да ліп. 1944 колькасць членаў арг-цыі вырасла больш як у 3,5 раза. Са снеж. 1943 абл. антыфаш. камітэт выдаваў газ. «За Радзіму». Усяго абл. антыфаш. арг-цыяй выдадзена 168 тыс. экз. газет, лістовак, адозваў, зводак Саўінфармбюро і інш. матэрыялаў на бел., рус., польскай і ням. мовах. Вял. ўвага аддавалася папаўненню людзьмі партыз. радоў. Так, Ружанская раённая антыфаш. арг-цыя да 1943 накіравала да партызан 250 чал., з іх 150 са зброяй, Жабінкаўская за студз.— сак. 1944 — 100 чал. У Брэсцкім, Камянецкім, Кобрынскім, Пружанскім, Шарашоўскім і інш. раёнах барацьба насельніцтва супраць акупантаў набыла ўсеагульны характар.

Падпольшчыкі забяспечвалі партызан прадуктамі, медыкаментамі, цёплай вопраткай, абуткам, зброяй, боепрыпасамі. Да канца 1942 толькі Косаўская і Поразаўская антыфаш. арг-цыі перадалі партызанам (паводле няпоўных звестак) 10 кулямётаў, 18 аўтаматаў, больш за 200 вінтовак, каля 70 пісталетаў, 29 тыс. патронаў, вял. колькасць гранат і ўзрывачаткі. У 1943 члены арг-цыі пераправілі партызанам больш за 400 вінтовак, звыш 60 кулямётаў і аўтаматаў, каля 90 гранат, 4,3 тыс. патронаў. Яны падпальвалі ў маёнтках акупантаў склады, знішчалі с.-г. машыны, забіралі жывёлу, зрывалі выкананне паставак, удзельнічалі ў баявых аперацыях партызан. У жн. 1942 разам з партызанамі яны разграмілі гарнізон ворага ў Косаве, пазней — гарнізоны ў вёсках Була, Войтаў Мост, Руднікі, Шчытна. Сумесная баявая дзейнасць партызан і антыфашыстаў узмацнілася пасля перадыслакацыі ў Брэсцкую вобл. партыз. брыгад «За Радзіму» імя А. К. Флегантава, 8-й, 99-й імя Дз. Ц. Гуляева, 150-й імя Ф. М. Языковіча. У 2-й пал. 1943 члены Жабінкаўскай і Пружанскай арг-цый дапамагалі партызанам пусціць пад адхон 44 варожыя

эшалоны. Напярэдадні 26-й гадавіны Кастрычніка падпольшчыкі разбурылі 50 м дарогі Ружаны — Косава, у лют. 1944 вывелі са строю дарогу на в. Бялавічы, у маі 1944 разам з партызанамі атрада імя Дзімітрава — вял. ўчастак дарогі Косава — Пружаны. Напярэдадні вызвалення Чырвонай Арміяй тэр. Брэсцкай вобл. ад ням.-фаш. захопнікаў арг-цыя аб'ядноўвала 422 ячэйкі, каля 2 тыс. падпольшчыкаў. *У. Я. Навуменка.*

**БРЭ́СЦКАЯ АБЛАСНА́Я БІБЛІЯТЭ́КА** імя М. Горкага. Заснавана ў 1940. У Вял. Айч. вайну бібліятэчны фонд (35 тыс. экз.) знішчаны ням.-фаш. акупантамі. У 1944 адноўлена, у студз. 1945 адкрыта для наведвальнікаў. У студз. 1987 аб'яднана з абл. дзіцячай бібліятэкай. Бібліятэчны фонд 674 тыс. экз. (1990). З рэдкіх выданняў: «Падарожжа па Палессі і Беларускім краі» П. М. Шпілеўскага (1858), «Белавежская пушча» Г. П. Карцава (1903). Мае 14 аддзелаў, у т. л. бел. краязнаўчай, с.-г. і тэхнічнай л-ры, мастацтва, абслугоўвання дзяцей малодшага і сярэдняга школьнага ўзросту, абанементнае абслугоўванне. Па міжбібліятэчным абанементе звязана з 17 б-камі краіны, падтрымлівае сувязі з б-камі Польшчы. Аказвае метадычную дапамогу больш як 2200 бібліятэкам. Выдае метадычныя, бібліяграфічныя, інфармацыйныя дапаможнікі, штомесячна складае «Хроніку культурнага жыцця вобласці», штоквартальна — бібліяграфічны паказальнік «Літаратура аб Брэсцкай вобласці». *А. В. Яцэвіч.*

**БРЭ́СЦКАЯ АКРУГО́ВАЯ АРГАНІЗА́ЦЫЯ КПЗБ.** Дзейнічала ва ўмовах падполля з кастр. 1923 да жн. 1938 пад кіраўніцтвам Брэсцкага акр. камітэта КПЗБ (да стварэння КПЗБ рэв. работу ў акрузе вяла Брэсцкая акр. арг-цыя КПРП). У пач. 1924 арг-цыя налічвала 246 камуністаў. У канцы года ў яе ўваходзіла 14 раённых (Влодаўская, Воўчынская, Высока-Літоўская, Жабінкаўская, Камянец-Літоўская, Картуз-Бярозаўская, Кобрынская, Лышчыцкая, Маларыцкая, Падгародская, Пружанская, Страдзецкая, Цярэспальская, Чарнаўчыцкая) і Брэсцкая гар. арг-цыі КПЗБ, якія аб'ядноўвалі 125 ячэек, 735 чл. партыі. Пазней Влодаўскі і Цярэспальскі райкомы перададзены Люблінскай арг-цыі КПРП, Страдзецкі і Чарнаўчыцкі — Валынскай арг-цыі КПЗУ. У жн. 1925 Б. а. а. КПЗБ налічвала 808 чал., пасля масавых арыштаў у 2-й пал. года — 600. У пач. 1930-х гадоў у акр. арг-цыю ўваходзіла 700 камуністаў. У сак. 1932 у зоне дзейнасці Пружанскага райкома КПЗБ парт. ячэйкі існавалі ў 29 вёсках з 50, Волчынскага — у 36 з 39. Арганізатарамі і кіраўнікамі Б. а. а. КПЗБ у розны час былі К. І. Асіпік, В. М. Дайновіч, М. Л. Пераналоцкі, М. Е. Крыштафовіч, І. П. Урбановіч, С. Я. Багданчук, С. Р. Анісаў, В. Д. Вольф, І. П. Тарасюк, Х. Д. Шэрцман, А. Х. Раф і інш. Камуністы праводзілі работу па стварэнні гурткоў *Беларускай сялянска-работніцкай грамады*, «Чырвонай дапамогі», *Таварыства беларускай школы*, удзельнічалі ў выбарчых кампаніях. У агітацыйна-прапагандысцкай рабоце шырока выкарыстоўвалі друк. Волчынскі райком КПЗБ выдаваў на гектографе газ. «Наперад». Для выдання лістовак выкарыстоўвалася падп. друкарня ў Брэсце. Пад кіраўніцтвам Брэсцкага акругкома ў 1924 на Брэстчыне прайшлі першамайскія дэманстрацыі, антываен. мітынгі і масоўкі ў сувязі з 10-годдзем пач. 1-й сусв. вайны, выступленні за адкрыццё бел. школ, супраць высокіх падаткаў. У выніку агітацыі камуністаў большасць насельніцтва Маларыцкага, 90 % Лышчыцкага, 80 % Чарнаўчыцкага р-наў не плацілі падаткаў. Пасля масавых арыштаў на Брэстчыне ў 1925 паліцыя разграміла многія арг-цыі і камітэты КПЗБ (гл. *Працэс 31-го*). Аднак уладам не ўдалося цалкам паралізаваць дзейнасць акр. арг-цыі КПЗБ. Б. а. а. КПЗБ умацоўвала свой уплыў у прафсаюзах швейнікаў, дрэваапрацоўшчыкаў, рамеснікаў, металістаў, будаўнікоў і інш., узначальвала барацьбу рабочых і сялян за сац. заваёвы, дэмакр. правы і свабоды. У 1925—28 адбыліся дэманстрацыі з нагоды 1 Мая і гадавін Кастрычніка ў Брэсце, Камянец-Літоўску, Высокім, мяст. Святая Воля Косаўскага, в. Лышчыцы Брэсцкага паветаў, дэманстрацыя пратэсту супраць разгрому польскімі ўладамі БСРГ (гл. *Косаўскі расстрэл 1927*), забастоўкі брэсцкіх пекараў (1926), рабочых лесапільных з-даў (1928, 1929) і інш. Брэсцкі акругком КПЗБ праз гурткі МОПРа арганізоўваў матэрыяльную дапамогу палітвязням і іх сем'ям, праводзіў масоўкі і мітынгі пратэсту супраць тэрору і рэпрэсій улад. У час падрыхтоўкі да выбараў у сейм і гар. раду (1928) камуністы агітавалі выбаршчыкаў галасаваць за кандыдатаў ад рабоча-сялянскага блока, растлумачвалі яго праграму. Пасля I з'езда КПЗБ (1928) выступленні працоўных Зах. Беларусі набылі больш шырокі размах. У 1929—33 Б. а. а. КПЗБ кіравала забастоўкай кобрынскіх парабкаў (1929), *Брэсцкімі выступленнямі беспрацоўных 1931—32, Белавежскай забастоўкай рабочых лесараспрацовак 1932—33*, барацьбой сялян супраць шарварак, ліквідацыі сервітутаў, прымусовага высялення на хутары. Найб. вострымі былі выступленні жыхароў Брэсцкага, Высока-Літоўскага і Кобрынскага паветаў (гл. *Кобрынскае ўзброенае выступленне сялян 1933*). Выходзячы з тактыкі адзінага рабочага і антыфаш. нар. фронту, якую выпрацаваў II з'езд КПЗБ (1935), акр. арг-цыя ўздымала працоўных на барацьбу супраць рэжыму санацыі, прыняцця антыдэмакр. канстытуцыі і новага выбарчага закону. У выніку агітацыі камуністаў за байкот выбараў у сейм (1935) на выбарчыя ўчасткі не з'явілася 50 % выбаршчыкаў. Б. а. а. КПЗБ разам з мясц. арг-цыямі ППС і Бунда вербавала неарганізаваных рабочых у класавыя прафсаюзы, выступала за адзіны прафсаюзны рух, садзейнічала стварэнню гурткоў «Стронніцтва людовэго», інш. легальных арг-цый, праз якія далучала рабочых і сялян да розных паліт. акцый. Камуністы арганізоўвалі адзінафрантавыя выступленні за ліквідацыю Бяроза-Картузскага канцлагера і амністыю палітзняволеным (1935), супраць расстрэлу рабочых Кракава (2.4.1936), яўрэйскіх пагромаў і ў падтрымку забастоўкі польскіх сялян (1937), у абарону С. В. Прытыцкага, салідарнасці з барацьбой іспанскага народа супраць фашызму (1936—38) і інш. Пад кіраўніцтвам Брэсцкага акругкома КПЗБ праводзіўся збор сродкаў у дапамогу сем'ям загінуўшых рабочых Кракава, рэсп. Іспаніі. У 1936—38 на Брэстчыне адбылося каля 60 стачак, у якіх удзельнічала больш за 5,5 тыс. чалавек. Б. а. а. КПЗБ накіроўвала работу мясц. арг-цый КСМЗБ. Спыніла дзейнасць у сувязі з неабгрунтаваным роспускам Кампартыі Польшчы і яе састаўных частак КПЗБ і КПЗУ.

*Літ.*: Революционный путь Компартии Западной Белоруссии (1921—1939 гг.). Мн., 1966; Ладысев В. Ф. В борьбе за демократические права и свободы. Мн., 1988 *І. Ф. Дзяшко*

**БРЭ́СЦКАЯ АРГАНІЗА́ЦЫЯ ПО́ЛЬСКАЙ САЦЫЯЛІСТЫ́ЧНАЙ ПА́РТЫІ Ў ЛІТВЕ́** (ППС у Літве). Існавала ў 1902—06. Вяла рэв. агітацыю сярод рабочых горада і салдат Брэст-Літоўскага гарнізона, друкавала лістоўкі. Сумесна з *Брэсцкім сацыял-дэмакратычным камітэтам Бунда* ўдзельнічала ў падрыхтоўцы і правядзенні *Брэсцкіх выступленняў працоўных 1905*, стварэнні баявых дружын для барацьбы з пагромшчыкамі. Некалькі разоў члены арг-цыі захоплівалі прыватныя друкарні для выпуску рэв. лістовак. У ліст. 1905 такім чынам было надрукавана некалькі соцень экземпляраў адозваў «Да таварышаў рабочых, што служаць у паштова-тэлеграфнай канторы г. Брэста» і «Да таварышаў салдат», якія заклікалі да барацьбы за звяржэнне самадзяржаўя. Актыўна ўдзельнічала ў арганізацыі і правядзенні снежаньскай паліт. стачкі. Яе член А. Квяткоўскі 14(27).12.1905 затрыманы паліцыяй за агітацыю аб закрыцці крам. Пры ім знойдзены 3 экз. адозвы «Да ўсіх салдат Брэст-Літоўскай крэпасці» выдадзенай у снеж. 1905 ад імя *Брэсцкай ваенна-рэвалюцыйнай арганізацыі РСДРП*. 16(29) снеж. ён зноў схоплены паліцыяй у час чытання ў адной з пякарняў лістоўкі ППС «Нашы палітычныя патрабаванні». У кастр. 1906 разам з усёй ППС у Літве аб'ядналася з Літоўскай сацыял-дэмакратычнай партыяй. *М. В. Біч*

**БРЭ́СЦКАЯ АРГАНІЗА́ЦЫЯ РСДРП.** Сацыял-дэмакратычны рух у Брэсце пачаўся ў 1890-я гады. У 1895—97 дзейнічала *Брэсцкае тайнае таварыства рабочых і рамеснікаў*. У 1904—05 рэв. работу ў Брэсце вялі мясцовыя арг-цыі Бунда і ППС у Літве. Б. а. РСДРП аформілася ў канцы 1905. Уваходзіла ў *Паўночна-Заходні саюз РСДРП*, з чэрв. 1906 — у *Абласны саюз РСДРП Літвы і Беларусі*. Удзельнічала ў арганізацыі снежаньскай паліт. стачкі 1905. Члены

арг-цыі распаўсюджвалі сярод салдат Брэст-Літоўскага гарнізона выдадзеную Паўн.-Зах. саюзам пракламацыю «Салдацкая доля» пра бяспраўнае становішча салдат. Разам з *Брэсцкай ваенна-рэвалюцыйнай арганізацыяй РСДРП*, мясц. арг-цыямі ППС у Літве і Бунда ўдзельнічала ў падрыхтоўцы і правядзенні *Брэсцкіх выступленняў салдат 1905—07* У снеж. 1905 выпусціла лістоўку «Да ўсіх грамадзян горада Брэста» з заклікам падтрымаць стачку, рыхтавацца да ўзбр. паўстання. Прадстаўнік арг-цыі з дарадчым голасам прысутнічаў на 3-м з'ездзе Паўн.-Зах. саюза РСДРП у маі — чэрв 1906. Удзельнічала ў арганізацыі забастовак працоўных у 1906· студзеньскай (прысвечанай гадавіне рэвалюцыі), першамайскай, а таксама рабочых гільзанабіўных ф-к, гарбароў і пекараў З яе ўдзелам друкары горада дамагліся скарачэння рабочага дня на 1 гадзіну. Вяла рэв. работу сярод сялян. Пад уплывам рэв. агітацыі ў кастр. 1905 прайшлі забастоўкі с.-г. рабочых у маентках Літвінавічы, Мілейчыцы, Нурэц, Сасіны, Цяляцічы Брэсцкага пав., у маі — ліп. 1906 адбыліся *Брэсцка-Пружанскія выступленні сялян 1906*, крывавая сутычка сялян в. Бардзёўка з салдатамі (гл. *Бардзеўскі расстрэл 1906)*. Выпусціла пракламацыю, у якой выкладзены патрабаванні с.-г. рабочых в. Ямна да памешчыка. У вер. 1906 у Брэсце праведзены масавыя арышты, многія рэвалюцыянеры апынуліся ў турмах. У 1908 Б. а. РСДРП адноўлена Яе прадстаўнік удзельнічаў у *Нарадзе рэвалюцыйных сацыял-дэмакратаў Паўночна-Заходняга краю* 1908, дзе абмяркоўваўся кірунак парт работы мясцовых арг-цый ва ўмовах рэакцыі. У 1912—14 у Брэсце існавала праўдзісцкая група, рабочыя збіралі і дасылалі сродкі ў фонд «Праўды». У гонар Б. а. РСДРП у Брэсце ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

*М В Біч, А І Марозава*

**БРЭ́СЦКАЯ БІ́БЛІЯ,** Радзівілаўская біблія, помнік польскамоўнага кнігадрукавання на Беларусі. Выдадзена ў 1563 у Брэсце на сродкі Мікалая Радзівіла Чорнага, старосты берасцейскага, аднаго з кіраўнікоў кальвіністаў у ВКЛ. На той час была адным з лепшых выданняў у ВКЛ і Польшчы. Сярод перакладчыкаў Б. б. называюць Гжэгажа Оршака, Пятра Статорыуса, Яна Тэнаўдуса, Ежы Шомана, Якуба Любельчыка. У выданні, відаць, прымаў удзел і Ц. *Базылік*, які ў той час кіраваў адной з *Брэсцкіх друкарняў*. Б. б. мае назву «Біблія святая, гэта значыць Кніга Старога і Новага запаветаў з яўрэйскай, грэчаскай і лацінскай нанава на польскую мову са стараннасцю і дакладна перакладзеная». Ёсць і ўказанне «Друкавана ў Брэсце Літоўскім паводле загаду і коштам сіяцельнага пана, пана Мікалая Радзівіла, князя на Алыцы і на Нясвіжы, ваяводы віленскага, у Вялікім княстве Літоўскім наівышэйшага маршалка і канцлера». У Б б. змешчаны поўны тэкст Старога і Новага запаветаў Амаль на кожнай старонцы на палях каментарыі да тэксту Упершыню ў гісторыі кнігадрукавання на Беларусі змешчаны прадметны паказальнік. У прадмове, пратэстанцкай па накіраванасці, перакладчыкі тлумачаць прынцыпы і асаблівасці свайго перакладу, адзначаюць, што за ўзор бралі Біблію на французскай мове (выдадзена гугенотамі). Кніга — вял. фаліянт, апраўлена ў скураную вокладку з малюнкамі і графічным афармленнем Асобныя гравюры паводле кампазіцыі і малюнка, некаторых дэталей узыходзяць да гравюр Ф. Скарыны. Б. б. выдадзена фарматам «у ліст», налічвае 738 старонак. Тэкст надрукаваны гатычным шрыфтам у 2 калонкі па 58 радкоў у кожнай. Экземпляры Б. б. зберагаюцца ў Дзярж. публічнай б-цы ў Маскве (б. Дзярж. б-ка імя Леніна), Цэнтр. б-цы АН Літвы і ў Ягелонскай б-цы ў Кракаве, няпоўны экз — у Цэнтр. навуковай б-цы імя Я. Коласа АН Беларусі.

*Літ* Нікалаеў В «Зроблена ў Брэсце 1563 года, месяца верасня чацвертага дня » // Беларусь. 1980 № 12, Bibliografia Polska, wiek XV — XVIII Kraków, 1894 T 13, z 3, 4; Drukarze dawnej Polski od XV do XVIII wieku. Wrocław, Kraków, 1959 Z 5 Wielkie Księstwo Litewskie S 65—66, Kosman M Reformacja i kontrreformacja w Wielkim Księstwie Litewskim w świetle propagandy wyznaniowej Wrocław etc 1973 S 49 *А П Грыцкевіч*

**БРЭ́СЦКАЯ ВАЕННА-РЭВАЛЮЦЫ́ЙНАЯ АРГАНІЗА́ЦЫЯ РСДРП.** Існавала ў 1905—06. Створана рэв. сацыял-дэмакратамі, дзейнічала пад кіраўніцтвам *Ваенна-рэвалюцыйнай арганізацыі пры Абласным саюзе РСДРП Літвы і Беларусі.* Кіраўнік — чыгуначнік І І. Зінаўчук, члены. салдаты-артылерысты члены РСДРП з 1903 М. М. Какавіхін і Анісімаў, пісары Аляксандраў і Гарохаў, урачы Іваноў і Краснікаў і інш. Вяла паліт. работу сярод салдат Брэст-Літоўскага гарнізона. Нелегальную л-ру і ўказанні парт. кіраўніцтва атрымлівала ад сувязных ЦК РСДРП, сярод якіх была А. Дз. Стасава. Выпусціла лістоўку «26 патрабаванняў ніжніх чыноў Брэст-Літоўскага гарнізона», адозвы «Да салдат Брэст-Літоўскай крэпасці» (жн. 1905), «Да ўсіх салдат Брэст-Літоўскай крэпасці і гарнізона» (ліст. 1905), у якіх заклікала іх выступаць супраць царызму, браць прыклад з матросаў Кранштата і Севастопаля, з салдат Харкава і Гродна і пераходзіць на бок паўстанцаў. Удзельнічала ў падрыхтоўцы і правядзенні *Брэсцкіх выступленняў салдат 1905—07.* 23.9(6.10) 1906 паліцыя выкрыла арг-цыю. Пры вобыску на кватэры Зінаўчука знойдзены рэв. л-ра, перапіска, пячатка, сшытак з прозвішчамі членаў арг-цыі, спісы ахвяраванняў. Зінаўчуку ўдалося ўцячы. Следства па справе арг-цыі і яе кіраўніка цягнулася да 1908.

**БРЭ́СЦКАЯ ВО́БЛАСЦЬ.** Размешчана на ПдЗ Беларусі, мяжуе з Польшчай і Украінай. Пл. 32,3 тыс. км$^2$. Нас. 1 млн. 494 тыс. чал. (1993) Цэнтр — г *Брэст* Утворана 4.12.1939 з тэр. былых Брэсцкага, Кобрынскага і Пружанскага паветаў Палескага ваяв. Польшчы. 15.1 1940 паветы скасаваны, вобласць падзелена на 18 раёнаў· Антопальскі, Брэсцкі, Бярозаўскі, Высокаўскі, Гайнаўскі, Дамачаўскі, Дзівінскі, Жабінкаўскі, Камянецкі, Кляшчэльскі, Кобрынскі, Косаўскі, Маларыцкі, Поразаўскі, Пружанскі, Ружанскі, Сямяціцкі, Шарашоўскі. На 1.1. 1941 у Б. в. 8 гарадоў, у т. л. 1 горад абл., 7 раённага падпарадкавання, 7 гар., 2 рабочыя пасёлкі, 18 раёнаў, 234 сельсаветы. 20.9.1944 Поразаўскі р-н перададзены Гродзенскай вобл. 16.8.1945 частка тэр. Б в. перададзена Польшчы: 4 сельсаветы Высокаўскага р-на, г. Гайнаўка і 11 сельсаветаў Гайнаўскага р-на, г. п. Кляшчэлі і 8 сельсаветаў Кляшчэльскага р-на, Сямяціцкі р-н. 20.9.1947 Косаўскі р-н перайменаваны ў Івацэвіцкі. 8.1.1954 да Б. в. далучаны Ганцавіцкі, Давыд-Гарадоцкі, Драгічынскі, Жабчыцкі, Іванаўскі, Лагішынскі, Ленінскі, Лунінецкі, Пінскі, Столінскі, Целяханскі раёны скасаванай Пінскай вобл., Быценскі, Гарадзішчанскі, Ляхавіцкі, Навамышскі раёны скасаванай Баранавіцкай вобл., Ружанскі р-н перададзены Гродзенскай вобл., 19.6.1954 зноў вернуты Б.в. 8.4.1957 Навамышскі р-н перайменаваны ў Баранавіцкі. Скасаваны раёны. 17.12.1956 — Дамачаўскі і Шарашоўскі, 14.10.1957 — Быценскі і Жабчыцкі, 8.8 1959 — Антопальскі, Дзівінскі, Жабінкаўскі, Целяханскі, 20.1.1960 — Ленінскі, 19.1.1961 — Давыд-Гарадоцкі, 17.4.1962 — Высокаўскі, 25.12 1962 — Ганцавіцкі, Гарадзішчанскі, Іванаўскі, Івацэвіцкі, Лагішынскі, Маларыцкі, Ружанскі. 6.1.1965 адноўлены Іванаўскі, Івацэвіцкі і Маларыцкі, 30.7.1966 — Ганцавіцкі і Жабінкаўскі раёны На 1.1. 1993 у Б.в. 16 раёнаў Баранавіцкі, Брэсцкі, Бярозаўскі, Ганцавіцкі, Драгічынскі, Жабінкаўскі, Іванаўскі, Івацэвіцкі, Камянецкі, Кобрынскі, Лунінецкі, Ляхавіцкі, Маларыцкі, Пінскі, Пружанскі, Столінскі, 20 гарадоў, у т. л. 5 абл., 15 раённага падпарадкавання, 7 гар., 2 рабочыя пасёлкі, 227 сельсаветаў. Пра кожны раён вобласці гл. асобны арт.

**БРЭ́СЦКАЯ ГАРАДСКА́Я АНТЫФАШЫ́СЦКАЯ АРГАНІЗА́ЦЫЯ** ў Вялікую Айчынную вайну. Дзейнічала са жн 1942 да 28 7 1944 у Брэсце. Створана камуністамі, б. членамі КПЗБ, сав работнікамі. З лета 1943 работу арг-цыі накіроўвалі *Брэсцкі падпольны абком КП(б)Б* і штаб *Брэсцкага партызанскага злучэння*, з мая 1944 і Брэсцкі падп. гарком КП(б)Б Арг-цыя складалася з падп. груп, якія аб'ядноўвалі больш за 100 патрыётаў. Кіраўнік А. І. Бароўскі (падп. мянушка Мельнікаў). Групы ўзначальвалі. А А. Антанюк, В. М. Верабей, А. Г. Галаўчынер, Д. Р. Гарабец, У. К. Катовіч, Я. А. Каханоўскі, Дз. Г. Красоўскі, М. М. Лісач, В. К. Назарук, І. К. Назарук, М. К. Сцепанюк, П. Ф. Федарук і інш. Падпольшчыкі распаўсюджвалі сярод насельніцтва сав. газеты, лістоўкі, зводкі Саўінфармбюро, рэгулярна інфармавалі падп. парт органы, штаб абл. партыз. злучэння, партыз. спецгрупу

«Іскра» пра перамяшчэнне войск і тэхнікі праціўніка, размяшчэнне аэрадромаў, абарончых збудаванняў і складоў, пра колькасць і ўзбраенне ням. гарнізонаў, выяўлялі варожую агентуру, дапамагалі партызанам зброяй і медыкаментамі, выводзілі са строю тэлефоннатэлеграфную сувязь праціўніка. Члены арг-цыі падарвалі і спалілі 30 аўтамашын з ваен. і інш. грузамі ворага. 18.5. 1944 падпольшчыца М. Ф. Шаўчук учыніла выбух у афіцэрскай сталовай, у выніку якога забіта і паранена некалькі гітлераўцаў. Летам 1944 члены арг-цыі аказалі вял. дапамогу разведкай наступаючым часцям Чырв. Арміі пры вызваленні Брэста, Кобрына і інш. населеных пунктаў вобласці. *Л. В. Аржаева.*

**БРЭ́СЦКАЯ ЖАНО́ЧАЯ ГІМНА́ЗІЯ**, сярэдняя агульнаадук. навучальная ўстанова ў 1904—15. Заснавана 1.7.1904 у Брэсце. Складалася з 6 асноўных і падрыхтоўчага класаў. У 1905 адкрыты 7-ы, у 1907 — 8-ы дадатковы пед. клас. У пач. 1911/12 навуч. года адкрыты паралельныя 3-і і 6-ы класы. Колькасць навучэнцаў вагалася ад 400—500 у 1906—07 да 340 у 1915. Вывучаліся рус., франц., ням., польская

Будынак Брэсцкай жаночай гімназіі. Пачатак 20 ст.

мовы, Закон Божы, гісторыя, матэматыка, фізіка, чыстапісанне, маляванне, геаграфія, рукадзелле, славеснасць, гігіена і інш. Плата за навучанне ў падрыхтоўчым класе складала каля 60 руб. у год, у 1—7-м класах — 75 руб., у 8-м — 100 руб. Дадатковая плата бралася за навучанне лац. мове (10 руб.), догматам іудзейскай веры (4 руб.), танцам (4 руб. ў год). На ўтрыманне гімназіі з дзярж. казны, органаў мясцовага гар. самакіравання і збору за навучанне выдаткоўвалася ў год (у залежнасці ад колькасці навучэнак) ад 20 да 40 тыс. руб.

*Літ.:* Памятная книжка Виленского учебного округа за 1907—08 учебный год. Вильна, 1907; Памятная книжка Виленского учебного округа на 1915 г. Вильна, 1915. *М. М. Забаўскі.*

**БРЭ́СЦКАЯ КРЭ́ПАСЦЬ**, комплекс абарончых збудаванняў 19 — пач. 20 ст. ў г. *Брэсце* (Брэст-Літоўску). Пабудаваны як частка сістэмы ўмацаванняў на З Расійскай імперыі. Размешчана на 4 астравах, утвораных рэкамі Зах. Буг і Мухавец, іх рукавамі і сістэмай каналаў. Будавалася паводле праекта (зацверджаны імператарам Мікалаем I у 1830) генералаў Малецкага і К. І. Опермана, палк. А. І. Фельдмана. У 1832 найвышэйшы нагляд за буд-вам крэпасці быў ускладзены на ген.-фельдмаршала Ф. І. Паскевіча. 6.6.1833 пачаты масавыя земляныя работы. У сувязі з пабудовай крэпасці г. Брэст-Літоўск перанесены на 3 км на У. Калі земляныя работы ў асноўным закончыліся, 1.6.1836 адбылася закладка першага каменя, у які былі замураваны бронзавая дошка з памятным надпісам і шкатулка з манетамі. 26.4.1842 Б. к. пачала дзейнічаць як крэпасць 1-га класа. Абарончая сістэма яе (агульная пл. 4 км$^2$) падзялялася Зах. Бугам і Мухаўцом на ўмацаванні Цэнтральнае (Цытадэль), Валынскае (Паўднёвае), Цярэспальскае (Заходняе), Кобрынскае (Паўночнае). Цытадэль размешчана на востраве, на месцы

БРЭСЦКАЯ ВОБЛАСЦЬ

стараж. гандлёва-рамеснага цэнтра горада (места). Па перыметры абкружана замкнёнай пяцівугольнай абарончай 2-павярховай казармай (даўж. 1,8 км) з 500 казематамі, у якіх маглі размясціцца 12 тыс. салдат з неабходным для баявых дзеянняў рыштункам і запасам харчавання. Вонкавыя сцены казармы (таўшч. да 2 м) мелі байніцы і амбразуры для стральбы з ружжаў і гармат. Кампазіцыйны цэнтр Цытадэлі — гарнізонная Мікалаеўская царква (1856—79, арх. Г. Грым). Тут жа ў будынку б. кляштара езуітаў (узведзены ў 1623, адноўлены ў 1679) размяшчалася канцылярыя камендаита крэпасці. Будынак кляштара базыльян (1629, пазней вядомы як Белы палац) быў перабудаваны пад афіцэрскае казіно. Валынскае ўмацаванне зроблена на месцы *Брэсцкага замка,* складалася з 2 бастыённых фортаў з 2 равелінамі. Тут у б. кляштары бернардзінцаў (існаваў з 17 ст.) у сярэдзіне 19 ст. размяшчаўся *Брэсцкі кадэцкі корпус,* пазней — вайсковы шпіталь. Злучалася з Цытадэллю Холмскай брамай і пад'ёмным мостам цераз Мухавец. Цярэспальскае ўмацаванне будавалася на левым беразе Зах. Буга. Мела 4 земляныя люнеты, злучвныя ровам. Цярэспальскай брамай і канатным мостам (самым вялікім на той час у Расійскай імперыі) цераз Зах. Буг злучалася з Цытадэллю. Над уязным праёмам Цярэспальскай брамы былі 4 ярусы вузкіх акон-байніц, над якімі ў 1920-я гады надбудавана 5-ярусная вежа з дазорнай пляцоўкай. Кобрынскае ўмацаванне створана на месцы б. Кобрынскага прадмесця. Яно складалася з 4 бастыённых фортаў з 3 равелінамі. З Цытадэллю злучалася Брэсцкай і Беластоцкай (Брыгіцкай) брамамі і мастамі цераз р. Мухавец. Па вонкавай лініі крэпасці праходзіў земляны вал вышынёй да 10 м з каменнымі казематамі ўнутры і запоўненым вадой ровам перад ім. Даўжыня галоўнай крапасной лініі складала 6,4 км. З прылеглай да крэпасці тэрыторыяй перадмаставыя ўмацаванні злучаліся праз Аляксандраўскую (Паўночную), Паўночна-Заходнюю, Міхайлаўскую (Усходнюю), Мікалаеўскую (Паўднёаую) брамы і Варшаўскі праезд.

На пачатку свайго існавання крэпасць была адным з самых дасканалых крапасных умацаванняў Расійскай імперыі. З'яўленне наразной артылерыі запатрабавала перабудовы крэпасці і ўзвядзення вакол яе пояса новых умацаванняў. У 1864 у адпаведнасці з запіскай генерала Э. І. Татлебена аб мадэрнізацыі крэпасцяў Расіі (1862) пачалася яе рэканструкцыя. Быў патоўшчаны галоўны вал, узведзена 2 рэдзюіты на Кобрынскім умацаванні, папраўлены на Цярэспальскім, пабудаваны 2 парахавыя склепы ўмяшчальнасцю па 5 тыс. пудоў і інш. У 1878 зацверджаны план буд-ва перадавых умацаванняў. Да 1888 на адлегласці 3—4,5 км адзін ад аднаго узведзены 9 фортаў (земляных умацаванняў з невялікімі казематамі), у кожным з якіх можна было размясціць каля 200 чал. і да 20 гармат. Даўжыня абарончай лініі дасягнула 30 км. У рэвалюцыю 1905—07 у крэпасці адбыліся *Брэсцкія выступленні салдат 1905—07.* У 1912 зацверджаны генеральны план пашырэння крэпасці на 1912—21. За 6—7 км ад ядра крэпасці меркавалася пабудаваць новы фортавы пояс, прадугледжвалася ўмацаванне і перабудова ўстарэлых збудаванняў. Летам 1913 пачата будаўніцтва. Да 1-й сусв. вайны толькі 2 форты былі закончаны цалкам, 8 — збудаваны часткова. З аб'яўленнем мабілізацыі (16.7.1914) крэпасць стала пунктам папаўнення дзеючай арміі і базай забеспячэння крэпасці Іван-Горад (Эстонія). Удзень і ўначы вяліся інтэнсіўныя работы па падрыхтоўцы Б. к. да абароны, штодзённа працавала каля 70 тыс. чал., каля 8,5 тыс. падвод. Да кастр. 1914 крапасная пазіцыя мела закончаны выгляд. Яна складалася з 14 фортаў і 5 абарончых казармаў, 21 прамежкавага апорнага пункта. Пры агульнай даўжыні фортавага пояса 45 км сярэдняя адлегласць паміж фортамі складала 1 км, г. зн. яны знаходзіліся ў поўнай агнявой сувязі. У будаўніцтве і ўдасканальванні крэпасці ў пач. 20 ст. ўдзельнічалі ваен. інжынеры прафесар Мікалаеўскай інжынернай акадэміі ген.-лейт. Н. А. Буйніцкі (1863—1914), А. К. Аўчыннікаў, палкоўнікі І. В. Бялінскі (1876—1976), Б. Р. Дабашчынскі (1880—1943), Г. І. Лагорыа (1867—1938), капітан Дз. М. *Карбышаў.* З набліжэннем да Брэста герм. войск камендант крэпасці Лаймінг стварыў савет абароны, які прызнаў магчымым у выпадку аблогі пратрымацца 8 месяцаў. Аднак па загаду Вярхоўнага камандавання 8—12.8.1915 гарнізон, крапаснoе ўзбраенне, баявыя запасы, маёмасць, а таксама амаль усё насельніцтва г. Брэста былі эвакуіраваны, частка ўмацаванняў крэпасці ўзарвана. З 15.8.1915 да канца 1-й сусв. вайны крэпасць была занята германскімі войскамі. Тут на тэр. Цытадэлі ў Белым палацы быў падпісаны *Брэсцкі мір 1918.* Паводле ўмоў Рыжскага мірнага дагавора 1921 Брэст з крэпасцю адышоў да Польшчы. У Б. к. размяшчаліся часці 9-га Палескага корпуса Войска Польскага. На пачатку 2-й сусв. вайны ў вер. 1939 ням.-фаш. войскі бамбілі крэпасць, была пашкоджана частка абарончай казармы Цытадэлі, будынак інжынернага ўпраўлення, Белы палац. 14.9.1939 да крэпасці падышлі перадавыя часці 19-га танк. корпуса герм. арміі, пасля ўпартых баёў 17 вер. яны захапілі крэпасць. 22 вер. ў адпаведнасці з сакрэтным пратаколам да савецка-герм. пакта аб ненападзе (23.8.1939) у горад і крэпасць увайшла 29-я лёгкатанкавая брыгада Чырв. Арміі. Знаходжанне герм. войск у Брэсце закончылася сумесным развітальным парадам і абменам сцягамі. Сістэма ўмацаванняў, якія акружалі крэпасць, аказалася напаўраскрытай на З, бо форты за Зах. Бугам трапілі ў рукі немцаў. Крэпасць у сувязі з развіццём ваен. тэхнікі страціла былое ваен. значэнне, але разам з пабудаванымі ў ёй 2 дотамі ўвайшла ў Брэсцкі ўмацаваны раён. З вясны 1941 у крэпасці дыслацыраваліся ў асноўным часці 6-й Арлоўскай і 42-й стралк. дывізій 28-га стралк. корпуса, якія 22.6. 1941 прынялі ўдар ням.-фаш. арміі і больш як месяц гераічна трымалі абарону (гл. *Брэсцкай крэпасці абарона 1941*). 28.7.1944 у ходзе Люблін-Брэсцкай аперацыі 1944 Брэст і крэпасць

Да арт. **Брэсцкая крэпасць.** Белы палац. Здымак пачатку 20 ст.

Да арт. **Брэсцкая крэпасць.** Крэпасць Брэст-Літоўск у 1840-я гады. З карціны мастака Б. Залескага.

вызвалены ад ням -фаш. войск За гады вайны крэпасць моцна разбурана, у пасляваенны час многія будынкі разабраны 8 5 1965 Указам Прэзідыума Вярх Савета СССР Б к прысвоена ганаровае званне «Крэпасць-герой» У 1971 адкрыты мемарыяльны комплекс *Брэсцкая крэпасць-герой* З 1982 на тэр. крэпасці дзейнічае археал музей *«Бярэсце»*

*Літ* Яковлев В В, Хмельков С А Современное состояние долговременной фортификации [Л] , 1926, Аникин В И Брестская крепость — крепость-герой 2 изд М , 1985, Кублицкая Л Как начиналась вторая мировая // Брестский курьер 1991 12—18 сент , 19—25 сент

*У А Абрамау, Т М Ходцава*

**БРЭ́СЦКАЯ КРЭ́ПАСЦЬ-ГЕРО́Й,** мемарыяльны комплекс, створаны ў 1969—71 на тэр Брэсцкай крэпасці на ўвекавечанне подзвігу ўдзельнікаў *Брэсцкай крэпасці абароны 1941*, адкрыты 25 9 1971 Скульптурна-арх ансамбль уключае ўцалелыя збудаванні, закансерваваныя руіны, крапасныя валы і творы сучаснага манументальнага мастацтва. Аўтаркі калектыў нар мастак СССР скульпт А Кібальнікаў (гал. мастацкі кіраўнік), нар арх СССР У Кароль, нар мастак Беларусі скульпт А Бембель, засл арх Беларусі В. Волчак і Г Сысоеў, скульпт. У Бабыль, арх В Занковіч, Ю Казакоў, А Стаховіч Комп-

Брэсцкая крэпасць-герой. Холмскія вароты

лекс размешчаны ва ўсх. частцы Цытадэлі. Галоўны ўваход уяўляе сабой праём у выглядзе 5-канцовай зоркі ў маналітным жалезабетонным масіве, які абапіраецца на вал і сцены казематаў. На вонкавым баку падмурка ўстаноўлена дошка з тэкстам Указа Прэзідыума Вярх. Савета СССР ад 8.5.1965 аб прысваенні Брэсцкай крэпасці ганаровага звання «Крэпасць-герой». Ад гал. ўвахода алея вядзе цераз мост да пл. Цырыманіялаў, дзе адбываюцца масавыя ўрачыстасці. Злева ад моста скульпт. кампазіцыя «Смага» — фігура сав. воіна, які цягнецца з каскай да вады. Да пл. Цырыманіялаў прымыкаюць будынак *Брэсцкай крэпасці-героя музея* і руіны Белага палаца. Кампазіцыйным цэнтрам ансамбля з'яўляецца гал. манумент «Мужнасць» — пагрудная скульптура воіна і штык-абеліск. На адваротным баку манумента рэльефныя кампазіцыі, якія адлюстроўваюць асобныя эпізоды гераічнай абароны крэпасці. З манументам арганічна звязаны трыбуна і 3-ярусны некропаль, дзе пахаваны астанкі 850 чал., на ўстаноўленых тут мемарыяльных плітах — імёны 224 байцоў. Побач з руінамі б. інжынернага ўпраўлення гарыць Вечны агонь. Перад ім — адлітыя з бронзы словы: «Стаялі насмерць, слава героям!» Недалёка ад Вечнага агню знаходзіцца Мемарыяльная пляцоўка гарадоў-герояў Сав. Саюза, на якой пад гранітнымі плітамі ўстаноўлены капсулы з зямлёй гарадоў-герояў. На сценах казарм, руінах, цагляных і мураваных глыбах, на спец. падстаўках мемарыяльныя дошкі ў выглядзе адрыўных лісткоў календара 1941, якія з'яўляюцца своеасаблівай хронікай гераічных падзей. Пешаходныя дарожкі і плошча перад гал. уваходам пакрыты чырвоным пластабетонам. Мастацка-дэкаратыўнае чырвона-бела-зеленаватае падсвечванне вечарам і гукавое афармленне (гучанне песні А. Аляксандрава «Свяшчэнная вайна», урадавага паведамлення пра вераломны напад на СССР войск фаш. Германіі, мелодыі Р. Шумана «Летуценні») надаюць асаблівую вастрыню ўспрымання комплексу. *Л. Г. Лапцэвіч.*

**БРЭ́СЦКАЯ МУЖЧЫ́НСКАЯ ГІМНА́ЗІЯ**, сярэдняя агульнаадук. навучальная ўстанова ў 1865—1915. Заснавана ў 1865 у Брэсце як 4-класная прагімназія. Налічвала каля 160 навучэнцаў. У 1901 пераўтворана ў гімназію. Складалася з 8 асноўных, 4 паралельных (1—4-ы класы) і падрыхтоўчага класаў. Колькасць навучэнцаў ад 450 да 520. Вывучаліся рус., франц., ням., лац. мовы, гісторыя, геаграфія, прыродазнаўства, матэматыка. У праграму ўваходзілі ўрокі па маляванні, чыстапісанні, музыцы, спевах і інш. Праваслаўны святар і ксёндз выкладалі Закон Божы, а законавучыцель іудзейскай веры — іудзейскае веравучэнне. Плата за навучанне ў гімназіі складала 55—65 руб., у падрыхтоўчым класе 50—60 руб. у год. На ўтрыманне гімназіі адпускалася ў год у залежнасці ад колькасці навучэнцаў: з дзярж. казны 25—35 тыс. руб., з сум платы за навучанне 12—22 тыс., з гар. казны — 300—800 руб. Зараз у будынку

Будынак Брэсцкай мужчынскай гімназіі.

Пачатак 20 ст

б. гімназіі размешчаны адзін з навуч. карпусоў *Брэсцкага педагагічнага інстытута* імя А. С. Пушкіна.

*Літ.* Памятная книжка Виленского учебного округа на 1883—84 учебный год. Вильна, 1884; Памятная книжка Виленского учебного округа за 1911—1912 учебный год. Вильна, 1912. *М. М. Забаўскі*

**БРЭ́СЦКАЯ ПРАВАСЛА́ЎНАЯ ЕПА́РХІЯ.** Існуе з 1840. Да канца 16 ст. тэр. Брэстчыны знаходзілася пад уладай епіскапаў уладзіміра-валынскіх, якія часам называліся «епіскапамі ўладзімірскімі і берасцейскімі». У 1596—1630-я гады ўсе яе парафіі перайшлі ў унію, у 1765 утворана *Брэсцкая уніяцкая епархія*. Толькі некалькі храмаў і манастыроў засталіся праваслаўнымі. Епархія ўтворана ў 1840 з былой Брэсцкай уніяцкай епархіі (тэр. Гродзенскай губ.) як епіскапства (вікарыят) *Літоўскай праваслаўнай епархіі:* брэсцкія епіскапы адначасова былі вікарыямі (намеснікамі) архіепіска-

Брэсцкая крэпасць-герой. Манумент «Мужнасць»

паў літоўскіх і віленскіх. У 1900 епіскапства пераўтворана ў Гродзенскую праваслаўную епархію, якая з 1922 дзейнічала ў складзе Польскай праваслаўнай царквы. У час Вял. Айч. вайны 1941—45 у сувязі з перадачай часткі Палесся і Падляшша ў склад рэйхскамісарыята Украіны з Гродзенскай епархіі была вылучана самастойная Б. п. е. У 1945 яна скасавана, а тэрыторыя ўключана ў *Пінскую праваслаўную епархію.* У 1952—89 кіравалася непасрэдна мінскімі архіепіскапамі і мітрапалітамі. Адноўлена ў 1990, уключае тэр. Брэсцкага, Бярозаўскага, Драгічынскага, Жабінкаўскага, Камянецкага, Кобрынскага, Маларыцкага і Пружанскага р-наў Брэсцкай вобл. Архірэй носіць тытул епіскапа брэсцкага і кобрынскага. Б. п. е. кіравалі епіскапы Міхаіл (Галубовіч, 1840—48), Ігнацій (Я. Л. Жалязоўскі, 1848—70), Яўгеній (М. Шарашыла, 1870—75), Уладзімір (В. С. Нікольскі, 1875—77), Януарый (І. І. Вазнясенскі-Папоў, 1877—79), Данат (М. І. Боінскі-Сакалоў, 1879—81), Аўрамій (А. Летніцкі, 1881—85), Анастасій (В. А. Апоцкі, 1885—91), Іосіф (Н. А. Сакалоў, 1891—97), Якім (І. А. Лявіцкі, 1897—1900), Іаан (Лаўрыненка, 1942—44), Паісій (А. П. Абразцоў, 1944—45), Канстанцін (К. А. Хоміч, з 1990).

*Літ.:* Иосиф (Соколов Н. А.) Гродненский православно-церковный календарь, или Православие в Брестско-Гродненской земле в коице XIX века. Т. 1—2. 2 изд. Воронеж, 1899; Орловский Е. Ф. Судьба православия в связи с историей латинства и унии в Гродненской губернии в XIX столетии (1794—1900). Гродно, 1903.
*В. В. Антонаў.*

**БРЭ́СЦКАЯ У́НІЯ 1596**, акт пра арганізацыйнае аб'яднанне каталіцкай і праваслаўнай цэркваў на тэр. Рэчы Паспалітай. Абвешчана ў кастр. 1596 на царк. саборы ў Берасці, зацверджана каралём Рэчы Паспалітай Жыгімонтам III Вазам. Праведзена на аснове ўзаемных уступак: прызнавалася вяршэнства папы рымскага, у царк. догматах зыходжанне Святога Духа не толькі ад Бога-Айца, але і ад Бога-Сына (каталіцкі догмат), у той жа час захаваліся ўсе праваслаўныя абрады, богаслужэнне і казанні на царкоўнаслав. (потым на беларускай, на Украіне — на укр.) мове. Б. у. і падрыхтоўка да яе праводзілася на аснове Фларэнційскай уніі 1439, якая фармальна была пашырана на тэр. ВКЛ і якую да пач. 16 ст. фармальна прызнавалі некаторыя мітрапаліты кіеўскія (з рэзідэнцыяй у Навагрудку) і епіскапы. Прычыны прыняцця Б. у.: жаданне іерархіі мясц. праваслаўнай царквы (на чале з кіеўскім мітрапалітам) быць незалежнай ад канстанцінопальскага патрыярха, які пэўным чынам залежаў ад турэцкага султана, нежаданне падпарадкоўвацца маскоўскаму патрыярху, які ў 1589 быў узведзены ў гэты сан з сану мітрапаліта і больш не падпарадкоўваўся канстанцінопальскаму патрыярху і называўся патрыярхам «усяе Русі», маючы намер пашырыць свой уплыў і на праваслаўную царкву Беларусі. Пэўную ролю адыграла незадаволенасць прыездамі і паборамі прадстаўнікоў грэч. праваслаўнай царквы, якая плаціла даніну турэцкаму султану. Б. у. была спробай процідзейнічаць імкненням рус. цара захапіць землі Беларусі і Украіны, захаваць недатыкальнасць уладанняў царквы і маёмасці. У выпадку прыняцця уніі такую недатыкальнасць гарантаваў кароль Рэчы Паспалітай. Праваслаўныя іерархі разлічвалі атрымаць месцы ў сенаце Рэчы Паспалітай нароўні з каталіцкімі епіскапамі, ліквідаваць крызіс праваслаўнай царквы, які абвастрыўся ў канцы 16 ст., утрымаць ва ўлонні царквы вернікаў, якія пачалі пераходзіць у пратэстанцтва і каталіцтва. Сваю ролю адыграла і імкненне да еднасці хрысціянскай царквы. Рымска-каталіцкая царква і кароль Рэчы Паспалітай Жыгімонт III Ваза бачылі ў уніі магчымасць для ідэйнага адзінства духавенства і феадалаў ВКЛ пры правядзенні ўнутр. і знешняй палітыкі кіруючых колаў Рэчы Паспалітай, а таксама сродак для сумеснай барацьбы супраць Рэфармацыі.

Ініцыятарамі Б. у. былі вярхі праваслаўнай царквы ў Рэчы Паспалітай, асабліва незадаволеныя дзеяннямі канстанцінопальскага патрыярха Ярэмія, які ў 1589 праязджаў па тэр. Рэчы Паспалітай у Маскву і з Масквы ў сувязі з абвяшчэннем патрыярхіі ў Расіі. Праект уніі прапанавалі і прынялі мітрапаліт кіеўскі, галіцкі і ўсяе Русі М. Рагоза, епіскап уладзімірскі і берасцейскі І. Пацей, патрыяршы экзарх епіскап луцкі і астрожскі К. Цярлецкі, епіскапы тураўскі і пінскі Л. Пэлчыцкі (потым І. Гогаль), львоўскі, галіцкі і камянец-падольскі Г. Балабан, холмскі і бэлзскі Д. Збіруйскі, полацкі і віцебскі Р. Храптовіч, перамышльскі і самборскі М. Капысценскі. Князь К. Астрожскі спачатку таксама быў прыхільнікам уніі, але напярэдадні яе заключэння змяніў сваю пазіцыю. Адышлі ад ідэі заключэння уніі таксама 2 інш. яе ініцыятары — Балабан і Капысценскі. Супраць уніі выступіла таксама частка праваслаўнай шляхты, духавенства і гараджан. У ліст. 1595 — лютым 1596 Цярлецкі і Пацей знаходзіліся ў Рыме, дзе ўмовы уніі былі зацверджаны рымскім папам Кліментам VIII. 6—10.10.1596 у Берасці адбыўся сабор для канчатковага зацвярджэння царк. уніі. У ім удзельнічалі праваслаўныя епіскапы і іншыя прыхільнікі уніі, а таксама яе праціўнікі на чале з Астрожскім і епіскапамі Балабанам і Капысценскім. Сабор адразу падзяліўся на 2 групоўкі — уніяцкую і праваслаўную, якія збіраліся паасобку. 9.10.1596 у царкве св. Мікалая была ўрачыста абвешчана Б. у., царква стала называцца грэка-каталіцкай. Праваслаўны сабор унію не прыняў. Непрыняццю уніі спрыялі Нікіфар, экзарх канстанцінопальскага патрыярхата ў Рэчы Паспалітай, і Кірыл Лукарыс, экзарх александрыйскага патрыярха. Уніяцкі сабор праводзіў свае пасяджэнні да 10.10. 1956. Быў прыняты пастырскі ліст пра Б. у. і пра адхіленні ад сану Балабана, Капысценскага і інш. святароў, якія не прынялі унію. Праціўнікі уніі таксама сімвалічна пазбавілі сану уніяцкага мітрапаліта і епіскапаў. Кароль Жыгімонт III Ваза універсалам ад 15.12.1596 зацвердзіў акт Б. у. і заклікаў беларусаў і ўкраінцаў прызнаць уніяцкіх епіскапаў. Унію прыняла значная частка праваслаўнага насельніцтва Беларусі, але ў некаторых раёнах яна не замацавалася (Слуцкае княства, наваколле Пінска і Магілёва). Супраціўленне часта прымала актыўныя формы (забойства полацкага архіепіскапа Кунцэвіча ў 1623). Рэлігійныя канфлікты мелі месца і ў іншых гарадах Беларусі на соймах у 1-й пал. 17 ст. У 1620 адноўлена праваслаўная царква на Украіне (з падпарадкаваннем ёй праваслаўнага насельніцтва на Беларусі), у 1632 яна была афіцыйна прызнана ўрадавымі коламі Рэчы Паспалітай (зацверджана на сойме 1633). Паступова уніяцкая царква на Беларусі ахапіла сваёй дзейнасцю шырокія масы гар. і асабліва сельскага насельніцтва. Б. у. на Беларусі была ліквідавана Полацкім царкоўным саборам 1839, на Украіне — падрыхтаваным па заказу І. В. Сталіна царк. саборам у Львове ў 1946. Уніяты на Украіне захавалі прыхільнасць да сваёй царквы, і ў 1989 яна была афіцыйна адноўлена. Беларуская уніяцкая царква адрадзілася ў 1920-я гады ў Заходняй Беларусі, але была ліквідавана ў 1940. Дзейнічае за межамі Беларусі на чале з апостальскім візітатарам. Яе цэнтрам з'яўляецца каталіцкая царква апосталаў Пятра і Паўла ў Лондане. За межамі Беларусі налічваецца каля 5 тыс. уніятаў-беларусаў (у Лондане, Парыжы, ЗША, Бельгіі, Германіі). На Беларусі уніяцкія цэрквы дзейнічаюць у Мінску, Гомелі, Гродне, існуюць абшчыны ў Віцебску і інш.

У навуковай літаратуры склаліся два погляды на Брэсцкую унію і гісторыю грэка-каталіцкай (уніяцкай) царквы на Беларусі: гісторыкаў праваслаўнай царквы ў 19 ст. (М. М. Бантыш-Каменскі, М. В. Каяловіч, І. А. Чыстовіч і г. д.), да якіх у 2-й пал. 20 ст. далучыліся савецкія бел. гісторыкі (Л. С. Абэцэдарскі, Я. Н. Мараш і інш.), што разглядаюць Брэсцкую унію і уніяцкую царкву з пункту погляду праваслаўнай царквы як негатыўную з'яву; гісторыкаў каталіцкай царквы ў 19 ст. (Ю. Пелеш, Э. Лікоўскі і інш.), якія падаюць гісторыю больш аб'ектыўна. Трэба адзначыць пункт погляду бел. савецкага гісторыка М. М. Нікольскага, які ў свой час даў трапную характарыстыку Брэсцкай уніі і гісторыі уніяцкай царквы. З беларускіх нацыянальных дзеячаў К. Каліноўскі ў газ. «Мужыцкая праўда» першы адзначыў, што уніяцкая царква для беларускага народа была нацыянальнай царквой.

*Літ.:* Бантыш-Каменский Н. Историческое известие о возникшей в Польше унии... М., 1805; Коялович М. Литовская церковная уния. Т. 1—2. Спб., 1859—61; Яго ж. История воссоеднення западнорусских униатов старых времён. Спб., 1873; Pelesz J. Geschichte der Union der

ruthenischen Kirche mit Rom von den altesten Zeiten bis auf die Gegenwart. T. 1—2. Wien, 1881, Likowski E. Dzieje kościoła unickiego na Litwie i Rusi w XVIII i XIX wieku. Cz 1 2 wyd. Warszawa. 1906; Жукович П Н Сеймовая борьба западнорусского дворянства с церковной унией. Вып. 1—6. Спб., 1901—12; Мараш Я. Н. Роль Ватикана в подготовке и утверждении Брестской унии 1596 г. // Вопросы истории религии и атеизма: Сб. ст. М., 1963. Т. 11; Яго ж Из истории борьбы народных масс Белоруссии против экспансии католической церкви Мн, 1969; Никольский Н. М. История русской церкви. Мн., 1990; Грыцкевіч А. П. Рэлігійнае пытанне і знешняя палітыка царызму перад падзеламі Рэчы Паспалітай // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук 1973. № 6; Panucevič V. Bieraściejskaja vunija. Chicago, 1972; Oriente Cattolico Cenni storici e statistiche Gittà del Vaticano, 1974; Энгельс Ф. Внешняя политика русского царизма // Маркс К., Энгельс Ф. Соч. 2 изд. Т. 22. *А. П. Грыцкевіч.*

**БРЭ́СЦКАЯ УНІЯ́ЦКАЯ ЕПА́РХІЯ.** Існавала на Беларусі ў 1765—1839 (з перапынкамі). Першапачаткова Брэсцкае епіскапства знаходзілася ў складзе Уладзімірскай епархіі на чале з каад'ютарамі (намеснікамі) епіскапаў уладзімірскіх. Як самастойная епархія дзейнічала з крас. 1798. Ахоплівала тэр. Літоўскай (з 1801 Гродзенскай і Віленскай) і Мінскай губ., з 1809 — толькі Гродзенскай. Кіравалі епархіяй епіскапы А. Младоўскі (1765—72, потым епіскап уладзімірскі і брэсцкі), А. Глаўнеўскі (1791—95, 1798), І. Булгак (1798—1834, з 1817 намінальна, фактычна епархіяй кіраваў яго намеснік Л. Явароўскі, які меў тытул епіскапа ўладзімірскага), А. Зубко (1834—39). У 1839 пасля скасавання на Беларусі грэка-каталіцкаи царквы парафіі Б. у. е. ўключаны ў *Літоўскую праваслаўную епархію.*

*Літ.:* Паевский Л. С. О церквах древней Брестской епархии, входивших в состав Мельникского благочиния в 1775 году (На основании древних церковных визитов). Гродна, 1892; Wiwčaruk S. De synodo provinciali Berestensi anno 1765 non celebrata. 2 ed Romae, 1963 *В В Антонаў*

**БРЭ́СЦКАЯ ЭКАНО́МІЯ,** феадальная каралеўская гаспадарка ў ВКЛ у 16—18 ст. Створана ў 1598 з дзярж. маёнткаў, даходы якіх ішлі на ўтрыманне каралеўскага двара. У 16—17 ст. была асобнай адм.-гасп. адзінкай, маёнткі яе здаваліся ў арэнду. У пач. 18 ст. аб'яднана з *Кобрынскай эканоміяй.* Паводле інвентара 1783, Б. э. мела 5 «губерняў» (у іх 45 ключоў), 17 фальваркаў, 8 гарадоў і 223 вёскі — усяго 5745 валок зямлі (1 валока — 21,3 га); уключала таксама *Белавежскую пушчу.* У 1780-я гады насельніцтва эканоміі — 46 942 чал. На адну сял. гаспадарку прыпадала 0,58 валокі. У выніку ўзмацнення эксплуатацыі сялян і інтэнсіфікацыі с.-г. вытворчасці даходнасць эканоміі ў 18 ст. павялічылася ў параўнанні з 17 ст. у 8 разоў. Большасць сялян эканоміі — цяглыя, за карыстанне 0,5 валокі адраблялі ў год 208 дзён паншчыны, адбывалі *згоны, шарваркі,* падводную, вартавую і інш. павіннасці. Жорсткі прыгнет неаднойчы быў прычынай сял. хваляванняў. У 1778 у эканоміі адбылося выступленне сялян (задушана войскамі). Пасля далучэння да Расійскай імперыі (1795) уладанні эканоміі рус. ўрад падараваў ці прадаў прыватным асобам.

*Літ.:* Похилевич Д. Л. Крестьяне Белоруссии и Литвы в XVI—XVIII вв. Львов, 1957; Яго ж. Крестьяне Белоруссии и Литвы во второй половине XVIII в. Вильнюс, 1966. *Я. Н. Мараш*

**БРЭ́СЦКІ АБЛАСНЫ́ АНТЫФАШЫ́СЦКІ КАМІТЭ́Т** у Вялікую Айчынную вайну, кіруючы орган *Брэсцкай абласной антыфашысцкай арганізацыі.* Створаны па ўказанні ЦК КП(б)Б у ліп. 1943 на базе *Брэсцкага міжраённага «Камітэта барацьбы з нямецкімі акупантамі».* Працаваў пад кіраўніцтвам *Брэсцкага падпольнага абкома КП(б)Б.* Накіроўваў дзейнасць 12 раенных антыфаш. арг-цый, у т. л. *Косаўскай раённай антыфашысцкай арганізацыі.* Праводзіў арганізатарскую і паліт.-масавую работу па ўзмацненні барацьбы супраць ням.-фаш. захопнікаў. Склад камітэта: І. П. *Урбановіч* (сакратар), М. Е. Крыштафовіч (нам. сакратара), М. А. Засім, М. Ф. Трында (інструктары), А. М. Дурэйка, А. М. Мініч. Адказным за работу камітэта быў чл. падп. абкома КП(б)Б С. П. Пацяруха. Камітэт знаходзіўся ў размяшчэнні партыз. брыгады імя П. К. Панамарэнкі (Брэсцкая вобл.) меў падп. друкарню. Са снеж. 1943 выдаваў газ. «За Родину».

У гонар Б. а. а. к., партыз. брыгады імя Панамарэнкі і Пружанскага падп. РК КП(б)Б у в. Смаляніца Пружанскага р-на ў 1975 пастаўлены абеліск. *А І. Марозава.*

**БРЭ́СЦКІ АБЛАСНЫ́ КРАЯЗНА́ЎЧЫ МУЗЕ́Й.** Заснаваны ў 1950 у Брэсце. Мае 11 экспазіцыйных залаў, пл. экспазіцыі 872 $м^2$, больш за 70 тыс. экспанатаў, у т. л. 63 тыс. асн. фонду (1991). Аддзелы: прыроды, гісторыі дакастрычніцкага і паслякастрычніцкага перыядаў, Вял. Айч. вайны, этнаграфічны.

У аддзеле гісторыі дакастрычніцкага перыяду археал. і нумізматычныя калекцыі, зброя і даспехі воінаў 13—19 ст., рукапісныя і друкаваныя кнігі (трэбнік 1646, рукапісны «Апостал» 17 ст.), макет Брэста 18 ст., герб і пячатка горада, матэрыялы з раскопак Берасцейскага гарадзішча, абмундзіраванне і зброя часоў Айч. вайны 1812, памятная бронзавая дошка і шкатулка з манетамі, закладзеныя пры заснаванні Брэсцкай крэпасці, карты і планы крэпасці. Сярод экспанатаў — матэрыялы пра *Брэсцкую арганізацыю РСДРП.* У аддзеле этнаграфіі разнастайныя экспанаты, у т. л. музычныя інструменты 18 ст. (цытра, музычная шкатулка), прылады працы і побыту сялян 19 ст. У аддзеле паслякастрычніцкага перыяду экспануюцца дакументы, баявыя рэліквіі, узнагароды, фотаздымкі землякоў — удзельнікаў кастрычніцкіх падзей 1917 і грамадз. вайны, матэрыялы пра першыя на Брэстчыне рэв. камітэты. Паказана дзейнасць арг-цый КПЗБ і яе дзеячаў (В. З. *Харужай,* С. С. *Панковай,* У. З. *Царука,* З. Ф. *Паплаўскага*), *Кобрынскае ўзброенае выступленне сялян 1933, Бяроза-Картузскі канцэнтрацыйны лагер.* Экспануюцца матэрыялы пра абарону Брэсцкай крэпасці ў Вял. Айч. вайну, у т. л. агучаная дыярама абароны Брэсцкай крэпасці, пра партыз. і падп. рух на тэр. вобласці і яго кіраўнікоў С. І. *Сікорскага,* А. Я. *Кляшчова,* В. З. *Каржа,* В. Я. *Чарнышова,* І. П. *Урбановіча,* пра вызваленне краю ад ням.-фаш. захопнікаў, у т. л. Люблін-Брэсцкую аперацыі, Герояў Сав. Саюза, якія вызначыліся пры вызваленні вобласці, і землякоў І. П. *Мазурука,* А. С. *Благавешчанскага,* Г. М. *Халасцякова,* двойчы Герояў Сав. Саюза С. І. *Грыцаўца,* П. І. *Клімука.* Паказана пасляваен. аднаўленне нар. гаспадаркі вобласці, дасягненні ў развіцці прам-сці, сельскай гаспадаркі, культуры. У аддзеле прыроды экспанаты расліннага і жывёльнага свету вобласці, агучаныя дыярамы «Белавежская пушча», «Палессе». Філіялы: археал. музей *«Бярэсце»,* музей атэізму ў в. Гершоны Брэсцкага р-на, *Музей партызанскай*

Фібулы (1, 4), касцяны грабеньчык (2), бронзавая спражка (3), гліняная праслíца (6), ляпны посуд (5, 7, 8) з Брэсцкага бескурганнага могільніка.

*славы* ва ўрочышчы Хаваншчына каля в Корачын Івацэвіцкага р-на. Аддзелы *Камянецкая вежа*, карцінная галерэя

*Т М Новікава*

**БРЭ́СЦКІ БЕСКУРГА́ННЫ МО́ГІЛЬНІК,** могільнік апошняй чвэрці 1-га — 2-й пал. 3-га ст. н. э на тэр. Брэста (былая в. Трышын, цяпер вул Маскоўская), на правым беразе р. Мухавец. Выявіў у 1959, даследаваў у 1960—63, 1965, 1977 Ю У. Кухарэнка Выяўлена 75 пахаванняў на адлегласці 2—3 м адно ад аднаго ў прадаўгаватых і круглых ямах глыбінёй да 1 м, дыяметрам 0,3—0,7 м Пахавальны абрад — трупаспаленне. Рэшткі крэмацыі, што праводзілася па-за межамі пахавання, ссыпалі на дно ямы, часам у спец. урны (гліняныя ляпныя гаршкі, збаны, міскі, вазы). Пахавальны інвентар (у 68 магілах па 3 рэчы ў кожнай) гліняны посуд, праслiцы, жал. нажы і замкі, бронзавыя фібулы, дэталі паяснога набору, шкляныя пацеркі, металічныя бранзалеты і падвескі. Могільнік пакінуты плямёнамі вельбарскай культуры, што склалася ў Памор'і і нізоўях Віслы ў 1 ст. н. э. і носьбіты якой у сярэдзіне 2 ст. рухаліся на ПдУ і дасягнулі Пабужжа, Валыні, Падолії. Некаторыя даследчыкі звязваюць могільнік з адным з этапаў фарміравання слав этнасу.

*Літ* Кухаренко Ю В Могильник Брест — Тришин М, 1980

*Т М Каробушкіна*

**БРЭ́СЦКІ ЕЗУІ́ЦКІ КАЛЕ́ГІУМ,** навучальная ўстанова каталіцкага манаскага ордэна езуітаў на Брэстчыне. Існавала з 1620-х гадоў да 18 ст У 1616 па запрашэнні луцкага епіскапа Паўла Валуцкага езуіты наведалі г. Брэст і пачалі актыўную прапаганду ідэй каталіцызму на зах. землях Беларусі, асабліва на Палессі. У 1620 брэсцкі ваявода Астафі Валовіч у падтрымку гэтага руху падараваў новай арг-цыі фальварак Адамкаў, які стаў рэзідэнцыяй місіі. Віленскі ваявода і магілеўскі староста Леў Сапега ахвяраваў езуітам фальварак Дзераўна з вёскамі Мольткі і Мяневеж (Брэсцкі пав.), а ў 1650 купіў для іх фальварак і в. Паніквы (цяпер Камянецкі р-н) У 1669 польскі кароль Міхал Вішнявецкі перадаў езуітам в. Плоскі і землі ў Прылуках (цяпер Брэсцкі р-н) На працягу 17—18 ст. езуіты набывалі новыя землі з вёскамі (Слаўкі, Студзіловічы, Ляскавічы і інш., Брэсцкі пав.), аддаючы грошы пад залог маёнткаў Праз некаторы час яны ператвараліся ў буйнога ліхвяра і арганізатара па эксплуатацыі промыслаў. У 17 ст. мелі кляштар (пабудаваны ў 1623 на тэр. сучаснай Брэсцкай крэпасці, не збярогся), калегіум, б-ку, аптэку (з 1694). Калегіум з'яўляўся сярэдняй навуч. установай класічнага тыпу. Выкладаліся «сем вольных навук», багаслоўе, лац. і грэч. мовы. Як навуч. ўстанова спрыяў умацаванню пазіцый каталіцкай царквы і ўсталяванню еўрап. сістэмы адукацыі на Брэстчыне. З 1634 у ім выкладалі толькі настаўнікі, якія мелі званне прафесараў. У 1772/73 навуч. г. з 28 выкладчыкаў 17 былі святарамі, 3 — настаўнікамі пач. класаў, 8 — манахамі У 1696—1760-я гады пры калегіуме дзейнічаў школьны тэатр. У б-цы (каля 2 тыс. тамоў) былі кнігі на лац, ням., французскай і інш. мовах У калегіуме вучыўся бел. мысліцель-атэіст К *Лышчынскі*

*Літ* Załęski S Jezuici w Polsce Kraków, 1908 *Т Б Блінова*

**БРЭ́СЦКІ ЗА́МАК.** Існаваў у Брэсце ў 14—18 ст., уваходзіў у комплекс *Брэсцкіх гарадскіх умацаванняў* Размяшчаўся каля сутокаў Мухаўца і Зах. Буга на трохвугольным у плане мысавым гарадзішчы памерам 234×187×234 м Пляцоўка замкавага дзядзінца (пл. больш за 2 га) была ўмацавана высокім земляным валам, на якім знаходзілася 5 вежаў і драўляныя гародні — «каморы» У лініі абароны, звернутай у бок «места» (горада), была вежа з брамай і гадзіннікам, а «от Муховца на всход солнца» — вуглавая вежа, якая разам з 2 іншымі вежамі абараняла замак з боку Замухавечча. Паўднёвы і паўд -зах участкі лініі абароны замка ахоўвалі 2 вежы, адна з іх была брамай З гэтага ж боку Б. з. быў умацаваны дугападобным ровам, які жывіўся водамі Мухаўца і Зах. Буга. 4 вежы замка былі драўляныя, іх падрабязнага апісання не захавалася, але можна меркаваць, што ўсе яны мелі 2—3 ярусы абароны. У дакументах сярэдзіны 16 ст адзначаецца, што на адной з вежаў было кругавое «бланковане» (баявая галерэя) У старой браме «с ганком наверху» вісеў ратны «звон великий». Летапісная вежа 13 ст. (мураваны «столп») упамінаецца як вуглавая вежа «ад Муховца» Асноўную лінію абароны Б. з. складалі 2-ярусныя гародні — «каморы посполитые» Ніжнія іх паверхі (уласна каморы) у час аблог замка займалі жыхары горада і воласці з дзецьмі і скарбам У час вайны тут яны мелі свае «схованье». Усе 129 камор-гародняў запіраліся на «защепки» і «ланцуги на скоблях» На 2-і ярус, дзе знаходзілася крытая стрэшкай баявая галерэя («бланкаванье»), вяла спец. лесвіца — «сходы» Былі прадугледжаны «потребные коморки» (туалеты) У лінію абарончых сцен уключаліся і жылыя памяшканні — «светлицы», пастаўленыя глухімі фасадамі ў бок «поля». Дагледзалі абарончыя збудаванні і зброю спец. слугі і замкавыя рамеснікі цясляр, муляр, сталяр, каваль, платнер, пушкар, слесар. У мірны час замкавая воласць штодня вылучала па 12 вартаўнікоў і «кликунов», якія пільнавалі замак ад пажару Агнястрэльная зброя ў Б. з была з 15 ст У дакументах за 1516 і 1523 упамінаецца «пушкарь Берестейский Марко» У цэйхгаўзе Б з ў 1566 знаходзілася металічных даспехаў на 100 чал., 12 гармат, 1 марціра, 96 гакаўніц, 7 жал. «кіеў» (старасвецкая ручная агнястрэльная зброя), коп'і, пратазаны, арбалетныя стрэлы — балты, 360 гарматных ядзер, формы для адліўкі, інш. зброя і рыштунак. Інвентар 1566 зафіксаваў наяўнасць у замку рэдкіх тэхн. прыстасаванняў — спец. помпаў для скрытай падачы вады ў замак, якая ішла па пракладзеных пад зямлёй драўляных трубах — «рурах». Падобныя тэхн. пабудовы ў гэтын часы яшчэ не існавалі ў замках Польшчы, Літвы і Украіны Вадзяныя «помпы медяные або спижные за штемпелями железными» прыводзіліся ў дзеянне вял. колам вадзянога млына, пастаўленага на рацэ пад замкам. З яго дапамогай магла працаваць і механічная «ступа на толчение пороху», а пры неабходнасці і сукнавальня — «фолюш». Вадапомпавае прыстасаванне абслугоўвалася спец. майстрам — «рурмистром» Гэта пабудова завяршалася «вежицей» і, верагодна, была разлічана на выкарыстанне для патрэб абароны. У мірны час гарнізон замка быў невялікі, а ў выпадку вайны тут размяшчаўся спец. кантынгент войск — «служебных». Уся зброя і ваен. амуніцыя набываліся за кошт прыбыткаў ад Брэсцкай і Кобрынскай эканомій; з сялян традыцыйна набіралася пяхота замкавага гарнізона Планава-кампазіцыйная структура ўмацаванняў Б. з. заставалася нязменнай да 18 ст. За час свайго існавання Б з пераніжыў шмат аблог і разбурэнняў. У 1334 горад і замак былі захоплены рыцарамі Тэўтонскага ордэна і толькі ў 1337 вызвалены кн. Кейстутам Гедзімінавічам. У 1348 яго захапілі палякі, ад якіх кн. Кейстут вызваліў горад каля 1366. У 1379 замак вытрымаў аблогу рыцараў на чале з комтурам з Бальгі Тэадорам Эльнерам. Зімой 1390 у час барацьбы паміж каралем Ягайлам і кн. Вітаўтам замак 10 дзён асаджала каралеўскае войска і захапіла яго. У 1500 Б. з. вытрымаў аблогу 15-тысячнага войска крымскіх татар, якія спалілі «места» і адступілі толькі тады, калі атрымалі «окуп». У выніку вял. пажару ў Брэсце ў 1525 у замку «все на корень выгорело». Адноўленыя горад і замак пацярпелі ў час антыфеад. вайны 1648—51, калі казакі Б Хмяльніцкага разбурылі Брэст, «учинив его с полем равно»; рэшта была знішчана каралеўскімі наемнымі салдатамі, якія занялі горад у снеж. 1648. Ва ўмовах вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 замак быў адноўлены, і ў ліст 1655 яго не адважыліся штурмаваць войскі рус. ваявод С. А. Урусава і Ю. Баратынскага. Летам 1657 у час руска-шведскай вайны 1656—58 аб'яднанае войска шведскага караля Карла X і сяміградскага кн. Ракашы аблажыла замак і захапіла яго з-за здрады гарнізона, які складаўся з ням. пяхоты. Да 20.8.1658 горад і замак вызвалены спец. атрадам з жыхароў Брэсцкага ваяв. пад камандаваннем падчашага ВКЛ М Радзівіла Аднаўленне замка ва ўмовах вайны зацягнулася. 8.1.1660 войскі рус. ваяводы І. А. Хаванскага па лёдзе падышлі да яго ўмацаванняў і штурмам авалодалі Замак быў дадаткова ўмацаваны новымі драўлянымі тэрасамі, сечанымі ў 2 бервяны, вышынёй у 2—2,5 сажні, зроблены запас хлеба, сабранага па навакольных вёсках. Яго было дастаткова для

пражывання гарнізона на працягу 2 гадоў. У чэрв 1660 войскі Хаванскага пакінулі Брэст У 1661 замак, відаць, зноў захапілі рус. войскі. Пасля некалькіх спроб дрэнна ўзбр. брэсцкай шляхце ўдалося яго нарэшце вярнуць. Для аднаўлення замка горад на 4 гады быў вызвалены ад усіх падаткаў. У разгар Паўночнай вайны 1700—21 у 1705 умацаванні Б. з не вытрымалі аблогі войск шведскага ген Меерфельда Пасля вайны драўляныя ўмацаванні былі заменены 5-бастыённымі пабудовамі, якія пазней былі ўключаны ў склад новаўтворанай *Брэсцкай крэпасці*

*Літ* Белоруссия в эпоху феодализма Сб документов и материалов Т 1—2 Мн, 1959—60, Документы Московского архива Министерства юстиции Т. 1 М, 1897, Ткачоў М А Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII — XVIII стст Мн, 1978 *М А Ткачоу*

**БРЭ́СЦКІ КАДЭ́ЦКІ КО́РПУС,** Аляксандраўскі Брэсцкі кадэцкі корпус, з 1857 Аляксандраўскі кадэцкі корпус, сярэдняя ваеннанавуч установа закрытага тыпу для падрыхтоўкі дваранскіх дзяцей да вайск. службы. Існаваў у 1842—63. Заснаваны ў Брэсце на сродкі казны, а таксама памешчыкаў Віленскай, Гродзенскай, Мінскай губ. і Беластоцкай вобл. Найменне «Аляксандраўскі» атрымаў у гонар свайго шэфа, будучага імператара Аляксандра II (у 1849—55 гал начальнік кадэцкіх карпусоў Расіі). Размяшчаўся ў пераабсталяваным будынку бернардзінскага кляштара на Валынскім умацаванні *Брэсцкай крэпасці*. У корпус прымалі дзяцей дваран, штаб- і оберафіцэраў ва ўзросце 9,5—11,5 года. Быў разлічаны на 400 навучэнцаў (кадэтаў). Выкладаліся агульнаадук прадметы за курс гімназіі (мовы, прыродазнаўчыя і грамадазнаўчыя навукі), страявая падрыхтоўка, верхавая язда, ружэйная стральба, фехтаванне, гімнастыка, плаванне, музыка і танцы. Выпускнікі накіроўваліся пераважна ў юнкерскія вучылішчы для прадаўжэння ваен. адукацыі, у надзвычайных выпадках (вайна) пасля сканчэння спец. класа — адразу ў гвардыю або армію афіцэрамі. У сувязі з пачаткам Крымскай вайны 1853—56 і аб'яўленнем Брэсцкай крэпасці на ваен становішчы корпус у 1854 пераведзены ў Маскву (пад ранейшай назвай), у ім 385 навучэнцаў, 53 выхавацелі і настаўнікі. У 1860 пераведзены ў Вільню, дзе ў сувязі з рэформай ваенна-навуч установ скасаваны. З выхаванцаў корпуса многія сталі пазней дзеячамі рэв. руху ў Расіі, кіраўнікамі і ўдзельнікамі паўстання 1863—64 у Польшчы, на Беларусі і ў Літве Сярод іх П І. Адамовіч, Я. В. Дамброўскі, Я Ф Кульчыцкі, Б В. Люгайла, І А Падбельскі, З. У. Падлеўскі, Б. С Паўловіч, Я А Пыдзеўскі, М В. Сакалоў, А Г. Стаброўскі, Т. Ф Уладычанскі і інш. У 1840-я гады ў Б к к. вучыўся будучы бел пейзажыст і майстар партрэта А. Гараўскі.

*Кр* Полн собр законов Российской империи Собр 2-е Т 31, отд 1-е, № 30 494, Т 34, № 34 423, Т 38, № 40 270

*Літ* Лалаев М Исторический очерк военно-учебных заведений, подведомственных Главному их Управлению Спб, 1880 *Ш І Бекцінееў, Н М Кірылава*

Пастанова Варшаўскага сейма 1659 аб адкрыцці Брэсцкага манетнага двара.

**БРЭ́СЦКІ КЛЯ́ШТАР БЕРНАРДЗІ́НЦАЎ.** Існаваў у 1605—1830. Заснаваны біскупам луцкім М. Шышкоўскім у 1605 у Валынскім прадмесці Брэста пры ўпадзенні р Мухавец у р. Буг. Апрача драўляных будынкаў тут была пастаўлена мураваная капліца св. Дароты Пасля пажару 1617 кляштар адбудаваны на сродкі ваяводы мсціслаўскага і старосты берасцейскага Геранiма Хадкевіча. У 1623 Я. Галімскі пры значнай фінансавай падтрымцы канцлера ВКЛ Льва Сапегі збудаваў мураваны касцел Яна Хрысціцеля і св Ганны — трохнефавую базіліку з закрытай галерэяй з Пн. У інтэр'еры акрамя галоўнага было 8 бакавых алтароў. Да касцела прылягаў мураваны будынак кляштара, пастаўлены спадкаемцамі Галімскага паводле яго наказу. У 1647 тут жыло 30 манахаў. У спецыяльна прыбудаванай да касцёла капліцы знаходзілася копія абраза «Маці Боская» з рымскага храма Санта Марыя Маджорэ, атрыманая П. Пацеем ад папы рымскага Клімента VIII разам з візантыйскім абразом «Хрыстос» Кляштар значна пацярпеў у час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 па загаду П. Сапегі ў 1656 былі разбураны ўсе будынкі каля гарадскіх сцен, разбурэнне кляштара давяршыла ў 1660 маскоўскае войска. У якасці кампенсацыі кляштар атрымаў са скарбу Рэчы Паспалітай 80 тыс. злотых, датацыі караля Рэчы Паспалітай Яна Казіміра і П. Сапегі, які завяшчаў пахаваць яго цела ў адбудаваным касцеле. Капліца св. Тройцы, дзе захоўваўся візантыйскі абраз «Хрыстос», адбудавана на сродкі Л. Пацея, а інтэр'ер капліцы св. Ганны — адноўлены на сродкі К. Пухальскага. У пач. 18 ст. рэканструяваны некаторыя алтары, скляпенне прэсбітэрыя, размаляваны хоры і мур вакол касцела. У 1711—13 тут працаваў архітэктар і мастак Б. Мазуркевіч, у сярэдзіне 18 ст. алтары аднаўляў разьбяр Ян Бляйўскі. З пач. 19 ст. пры кляштары дзейнічала школа. Падчас будаўніцтва *Брэсцкай крэпасці* ў 1830 будынак кляштара і касцела быў заняты пад кадэцкі корпус Разбураны ў час. Вял. Айч. вайны.

*Літ* Квитницкая Е Д Монастыри Бреста XVII—XVIII вв // Архитектурное наследство М, 1979 Вып 27 *А А Ярашэвіч*

**БРЭ́СЦКІ МАНЕ́ТНА-РЭ́ЧАВЫ СКАРБ.** Знойдзены ў Брэсце ў 1834. Складаўся з сярэбраных чары і 2 кавалкаў лому, 470 медных солідаў 1659—66 і 87 сярэбраных манет 6-грашовікаў 1660—68 (54 экз), 1679—83 (9 экз) Рэчы Паспалітай, 6-грашовікаў і ортаў 1679—86 (17 экз.), манет 1699 (6 экз.) Прусіі, сярэбранай манеты 1694 Саксоніі. Скарб схаваны ў канцы 17 ст. 39 сярэбраных манет захоўваюцца ў Эрмітажы.

**БРЭ́СЦКІ МАНЕ́ТНЫ ДВОР,** адзін з цэнтраў манетнай вытв-сці ў Рэчы Паспалітай. Створаны ў Брэсце ў час грашовай рэформы 1659—66 для выпуску меднага соліда (*бараціінкі*) згодна з пастановай Варшаўскага сейма ад 22 3.1659. Працаваў з 4.12.1665 да 16.12. 1666 на падставе віленскага пагаднення ад 6.7.1665 паміж прадстаўніком земскага скарбу ВКЛ і кіраўніком двара А М Бандарэлі (прадстаўнік арандатара манетнага двара Ц Л. Бараціні). За час працы двор выбіў каля 241 млн. медных солідаў на суму 2 674 268 злотых 10 грошаў. На *аверсе* бюст Яна II Казіміра Вазы [1648—68], пад якім ініцыялы TLB (арандатара манетнага двара); на *рэверсе* герб ВКЛ («Пагоня»), пад ім манаграма І. К. Кіршэнштэйна (падскарбі вял. літоўскі ў 1662—76) Соліды Б м. д. падобныя на медныя соліды *Віленскага манетнага двара*. Ёсць меркаванне, што большая частка тыражу мае адметныя рысы шчыт з вострым вуглом, малая манаграма, палеаграфічныя асаблівасці.

*Літ* Januškonis S Nieznane rachunki z lat 1663—1667 dotyczące bicia miedzianych szelągów w mennicach W Ks. Litewskiego // Wiadomości numizmatyczne 1975 Z 2 *І І Сінчук*

**БРЭ́СЦКІ МІЖРАЁННЫ «КАМІТЭ́Т БАРАЦЬБЫ́ З НЯМЕ́ЦКІМІ АКУПА́НТАМІ»** ў Вялікую Айчынную вайну, 1) назва ў маі 1942 — чэрв. 1943 *Брэсцкай абласной антыфашысцкай арганізацыі*. 2) Кіруючы орган Брэсцкай абл. антыфаш. арганізацыі да канца ліп. 1943. Створаны ў маі 1942 на нелегальнай нарадзе кіраўнікоў антыфаш. арг-цый і груп паўн. і цэнтр раенаў Брэсцкай вобл. У склад камітэта ўваходзілі: І. П. *Урбановіч* (сакратар), М. Е *Крыштафовіч*, Я. М. Афанасьеў, А. А. Журба, І. І. Жышка. Камітэт ажыццяўляў кіраўніцтва антыфаш. арг-цыямі і партыз атрадамі Бярозаўскага, Брэсцкага, Камянецкага, Косаўскага, Пружанскага, Ружанскага, Шарашоўскага, а пазней і шэрага інш. раенаў Брэсцкай, Баранавіцкай і Беластоцкай абл Сваей найважнейшай задачай лічыў разгортванне і актывізацыю ўзбр барацьбы супраць ням.-фаш. захопнікаў Праводзіў палітыка-масавую работу, з чэрв. 1942 меў падп. друкарню, дапамагаў партызатрадам зброяй, медыкаментамі, прадуктамі, вопраткай. Аб'яднаў пад сваім кіраўніцтвам атрады імя Шчорса, Чапаева,

Варашылава, Дзімітрава, Сталіна, Кірава, Чкалава. Члены камітэта былі замацаваны за атрадамі. У выніку баявых дзеянняў партызан летам 1942 створаны 3 партыз. зоны. Скрыты партыз. рэзерв на 1.1.1943 налічваў 9 тыс. чал. З вер. 1942 меў сувязь з ЦК КП(б)Б. У ліп. 1943 паводле рашэння ЦК КП(б)Б рэарганізаваны ў *Брэсцкі абласны антыфашысцкі камітэт*

*Літ.* Гл. пры арт. *Брэсцкая абласная антыфашысцкая арганізацыя*

*У. Я. Навуменка*

**БРЭ́СЦКІ МІР 1918**, мірны дагавор Сав. Расіі з Германіяй, Аўстра-Венгрыяй, Балгарыяй і Турцыяй. Падпісаны ў Брэст-Літоўску (Бярэсце) 3.3.1918, ратыфікаваны 4-м Надзвычайным Усерасійскім з'ездам Саветаў 15.3.1918 і герм. імператарам Вільгельмам II 26.3.1918. Дагавор падпісалі з сав. боку Р. Я. Сакольнікаў (старшыня дэлегацыі), Г. В. Чычэрын, Р. І. Пятроўскі, Л. М. Карахан (сакратар); з герм.— статс-сакратар ведамства замежных спраў Р. Кюльман, нач. генштаба Вярх. галоўнакамандуючага на Усх. фронце ген. М. Гофман; ад Аўстра-Венгрыі міністр замежных спраў А. Чэрнін; ад Балгарыі пасланнік і паўнамоцны міністр у Вене А. Тошаў, ад Турцыі пасол у Берліне І. Хакі-Паша і інш.

26.10(8.11).1917 2-і Усерас. з'езд Саветаў прыняў *Дэкрэт аб міры*, у якім было прапанавана ўсім дзяржавам — удзельніцам 1-й сусв. вайны заключыць перамір'е і пачаць мірныя перагаворы. Аднак краіны Антанты не адказалі на прапанову. 7(20).11.1917 СНК Расіі аддаў загад аб прыпыненні баявых дзеянняў з мэтаю адкрыцця мірных перагавораў. 8(21).11.1917 нарком па замежных справах Л. Д. Троцкі даслаў тэкст дэкрэта паслам краін Антанты і зноў прапанаваў заключыць усеагульнае перамір'е, адказу зноў не было. 14(27).11. 1917 Германія дала згоду на афіц. вядзенне перагавораў, таму што сама знаходзілася напярэдадні крызісу. 18.11(1.12).1917 да яе далучылася Аўстра-Венгрыя. На думку ням. камандавання, сепаратны мір з Расіяй павінен быў пазбавіць армію ад неабходнасці вядзення вайны на 2 франты і дазваляў пачаць наступальныя аперацыі на Зах. фронце. Немцы глядзелі на мір як на магчымасць за кошт параможанай Расіі і акупіраваных абласцей б. Расійскай імперыі папоўніць свае збяднелыя за час вайны харчовыя і сыравінныя запасы. Перагаворы пачаліся 20.11(3.12).1917 у Брэст-Літоўску, дзе размяшчалася камандаванне ням. войск на Усх. фронце. 2(15).12.1917 было падпісана пагадненне аб перамір'і з Германіяй і яе саюзнікамі 9(22).12.1917 у будынку інжынернага ўпраўлення Брэсцкай крэпасці пачаліся мірныя перагаворы. У склад сав. дэлегацыі ўвайшлі Н. А. Біцэнка, А. А. Іофэ (старшыня), Л. Б. Каменеў, Карахан (сакратар), М. М. Пакроўскі. Сав. бок выставіў у якасці асновы дагавору прынцыпы дэмакр. міру без анексій і кантрыбуцый. 12(25).12.1917 Кюльман ад імя герм.-аўстрыйскага блоку заявіў аб далучэнні да асн. тэзісаў сав. дэкларацыі пры ўмове, што да іх далучацца і ўрады краін Антанты. 17(30).12.1917 Троцкі накіраваў зварот да народаў і ўрадаў краін Антанты і ЗША «з апошняй прапановай прыняць удзел у мірных перагаворах» У выпадку адмовы віна за магчымае незаключэнне сепаратнага міру ўскладалася «на імперыялістычныя колы краін Антанты і ЗША». Зварот зноў застаўся без адказу. 27.12.1917(9.1.1918) Кюльман заявіў, што, паколькі Антанта не далучылася да перагавораў, герм. блок лічыць сябе вольным ад сав. мірных прапаноў. Пачаўся 2-і этап канферэнцыі, які вызначыўся абвастрэннем супярэчнасцей паміж удзельнікамі перагавораў. У Германіі за больш жорсткія ўмовы міру выступалі прадстаўнікі Гал. штаба П. Гіндэнбург і Э. Людэндорф. У Расіі таксама нарастаў апазіцыйны рух у адносінах да будучага міру, бо бальшавікі чакалі хуткай пралетарскай рэвалюцыі на Захадзе, а яна не пачыналася. У сувязі з гэтым для сав. дэлегацыі была выпрацавана агульная лінія паводзін як найдаўжэй зацягваць мірную перадышку, выкарыстоўваючы агітацыйныя магчымасці перагавораў для далейшай рэвалюцыянізацыі міжнар. рабочага класа з мэтаю набліжэння сусв. рэвалюцыі Расійскую дэлегацыю ўзначаліў Троцкі У цэнтры дыскусіі ўдзельнікаў канферэнцыі апынуліся пытанні, звязаныя з паняццем «самавызначэння нацый» Немцы патрабавалі прызнання права на самавызначэнне для Курляндыі, Літвы, Ліфляндыі, Польшчы і Эстляндыі. Сав. дэлегацыя сцвярджала, што самавызначэнне ва ўмовах ням. акупацыі немагчыма, і патрабавала вывесці ням. войскі з захопленых тэрыторый. Істотны ўплыў на гэтым этапе перагавораў зрабіла пазіцыя дэлегацыі Укр. Нар. Рэспублікі (УНР), прызнанай у снеж. 1917 Сав. урадам. Дэлегацыю Украіны ўзначальваў эсэр У. А. Галубовіч. На канферэнцыю прыбылі таксама бел. (С. Рак-Міхайлоўскі, І. Серада, А. Цвікевіч) і польская дэлегацыі. Троцкі згадзіўся прызнаць паўнамоцтвы ўкр. дэлегатаў, але выступіў супраць удзелу ў канферэнцыі прадстаўнікоў Беларусі і Польшчы, як не прызнаных Сав. урадам. Немцы задаволілі гэта патрабаванне, таму бел. дэлегацыя прысутнічала на канферэнцыі толькі як дарадца ўкр. дэлегацыі. Актыўнага ўдзелу ў перагаворах яна не прымала. Выкарыстаўшы адмову Антанты далучыцца да перагавораў, герм. дэлегацыя 5(18).1.1918 запатрабавала адарвання ад Расіі тэрыторыі плошчаю больш за 150 тыс. км². Граніца павінна была праходзіць па лініі: на У ад Маанзундскага архіпелага і Рыгі, на З ад Дзвінска, каля мяст. Відзы і далей да Брэст-Літоўска; далей на Пд яна павінна была вызначацца пагадненнем паміж Германіяй, Аўстра-Венгрыяй і Украінай Такім чынам, паводле патрабавання Германіі пад яе кантроль пераходзілі Літва, Польшча, палавіна тэр. Беларусі і частка Латвіі. У сувязі з такой сітуацыяй па прапанове Троцкага быў зроблены перапынак і ён выехаў у Петраград для

кансультацый з кіраўнікамі Сав. Расіі. Троцкі прапанаваў абвясціць вайну спыненай, армію дэмабілізаваць, але мір не падпісваць. У. І. Ленін выказаўся за прыпыненне тактыкі ненатуральнага зацягвання перагавораў. Пры галасаванні ў ЦК РСДРП(б) і на 3-м Усерас. з'ездзе Саветаў большасцю галасоў была падтрымана прапанова Троцкага. Яна не дазваляла абвінаваціць Сав. ўрад у здрадзе прынцыпам усеагульнага дэмакр. міру, пазбаўляла краіны Антанты фармальнай падставы для інтэрвенцыі супраць «здрадзіўшай» Расіі, згладжвала супярэчнасці ў РСДРП(б) і ў партыі левых эсэраў. 17(30).1.1918 перагаворы ўзнавіліся і праходзілі ў напружаных абставінах. Гэта было звязана найперш з пашырэннем на Украіне паўстання супраць УНР, справакаванага бальшавікамі, і абвяшчэннем 12(25).12.1917 Сав. Украіны. У студз. 1918 па просьбе ўрада Сав. Украіны прыбылі вайсковыя атрады з Сав. Расіі, пачалося наступленне на Кіеў [узяты 26.1(8.2).1918]. У Бярэсце 8(21).1.1918 прыбыла дэлегацыя Укр. рабоча-сялянскай рэспублікі, але краіны герм. блоку адмовіліся яе прызнаць. 12(25).1.1918 Цэнтр. укр. рада абвясціла пра выхад Украіны са складу Расіі і стварэнне незалежнай дзяржавы — УНР на чале з Цэнтр. радай. Герм. блок прызнаў УНР і ў ноч на 27.1(9.2).1918 падпісаў з яе прадстаўнікамі асобны дагавор, які даў падставу для акупацыі Украіны аўстра-герм. войскамі. У той жа дзень Кюльман ва ультыматыўнай форме запатрабаваў ад Сав. дэлегацыі даць адказ на прапанаваныя раней умовы міру. 28.1(10.2). 1918 Троцкі выступіў з дэкларацыяй, якая грунтавалася на аснове рашэнняў 3-га з'езда Саветаў. Прыняўшы да ведама заяву Кюльмана, што непадпісанне Расіяй мірнага дагавору аўтаматычна спыняе перамір'е, сав. дэлегацыя пакінула Бярэсце. Троцкі і яго прыхільнікі зыходзілі з таго, што немцы не змогуць выступіць супраць Сав. Расіі з-за рэв. ўздыму ў Германіі і Аўстра-Венгрыі. 14.2.1918 Брэсцкую дэкларацыю афіц. падтрымаў Усерасійскі ЦВК. 18.2.1918 аўстра-герм. войскі пачалі наступленне па ўсім фронце. У той жа дзень на пасяджэнні ЦК РСДРП(б) пасля вострай барацьбы з «левымі камуністамі» на чале з М. І. Бухарыным, якія выступалі за працяг рэв. вайны, большасць (7 — за, 5 — супраць, 1 устрымаўся) выказалася за падпісанне міру. Раніцай 19.2.1918 Ленін ад імя СНК РСФСР накіраваў герм. ўраду радыёграму са згодай на падпісанне міру. Аднак ням. наступленне працягвалася. Былі заняты Дзвінск, Мінск, акупіравана значная частка Беларусі. 23.2.1918 герм. ўрад запатрабаваў неадкладна ачысціць ад рус. войск Ліфляндыю, Украіну, Фінляндыю і Эстляндыю, дэмабілізаваць рус. армію, аднавіць нявыгадны для Расіі рус.-герм. гандлёвы дагавор 1904. На прыняцце ультыматуму давалася 48 гадз. У той жа дзень было вырашана прыняць герм. мірныя ўмовы. Супраць выказаліся меншавікі-інтэрнацыяналісты, правыя і левыя эсэры, максімалісты і анархісты. 24.2.1918 для падпісання дагавору ў Брэст-Літоўск выехала сав. дэлегацыя. 1 сак. яна атрымала канчатковы тэкст мірнага дагавору, які складаўся з 14 арт. і розных дадаткаў. Ад Расіі аддзяляліся Курляндыя, Літва, Ліфляндыя, Эстляндыя і частка Беларусі. На Каўказе да Турцыі адыходзілі Карс, Ардаган і Батум. Украіна і Фінляндыя прызнаваліся самастойнымі дзяржавамі. Усяго Расія страчвала тэрыторыі каля 1 млн. км$^2$ з насельніцтвам больш за 50 млн. чал. Сав. Расія абавязана была дэмабілізаваць армію і флот, прызнаць дагавор Цэнтр. укр. рады з Германіяй і яе саюзнікамі, заключыць мірны дагавор з радай і вызначыць мяжу паміж Расіяй і Украінай. Б. м. навязваў нераўнапраўныя эканам. пагадненні, аднаўляў нявыгадныя для сав. улады мытныя тарыфы 1904 на карысць Германіі. Тым не менш прадстаўнікі Расіі падпісалі мір, адмовіўшыся ад далейшага абмеркавання яго ўмоў.

Б. м. фармальна завяршыў перыяд удзелу Расіі ў *першай сусветнай вайне 1914—18*, з'явіўся вынікам няздольнасці Расіі працягваць ваен. дзеянні. Краіна знаходзілася ў стане паліт. і эканам. крызісу. Старая армія распалася, новая не была створана. Б. м. стаў першым паражэннем курсу бальшавікоў на падрыхтоўку сусв. рэвалюцыі і меў вынікам абвастрэнне ўнутрыпаліт. барацьбы на аснове розных адносін да міру з боку розных паліт. плыняў у Расіі. Б. м. стаў сведчаннем тактыкі бальшавікоў, накіраванай на раскол супрацьстаячага ім лагера імперыяліст. дзяржаў. Заключэннем Б. м. была ліквідавана спроба знішчыць сав. ўрад пры дапамозе ням. штыкоў, бальшавікі атрымалі перадышку для замацавання свайго панавання ў Расіі. Бел. пытанне на перагаворах самастойнага значэння не набыло. Інтарэсы беларусаў не былі прыняты пад увагу ні адным з бакоў. Паводле ўмоў Б. м. тэр. Беларусі была падзелена па лініі Дзвінск — Свянцяны — Ліда — Пружаны — Бярэсце. Немцы арыентаваліся на стварэнне «малой Літвы» з далучэннем да этнічнай Літвы часткі бел. зямель, у т. л. Віленшчыны і Гродзеншчыны. Астатняя тэр. Беларусі разглядалася як прэрагатыва Расійскай Федэрацыі. Землі на Пд ад Палескай чыгункі па дамоўленасці з Цэнтр. укр. радай перадаваліся УНР. Беларусь не атрымлівала нічога на аднаўленне разбуранай у час вайны гаспадаркі, таму што Германія і Расія ўзаемна адмовіліся ад пагашэння страт, прычыненых вайной насельніцтву гэтых дзяржаў. Такія абразлівыя адносіны да Беларусі выклікалі моцны нац.-вызв. рух. Напр., Віленская рада ў пастанове ад 18.2.1918 падкрэсліла: «...Рускія войскі не далі магчымасці зарганізавацца беларускай арміі і самі кінулі Беларусь безабароннаю... Прымаючы ўсё гэта пад увагу, Віленская Беларуская Рада абвяшчае сувязь паміж Расіяй і Беларуссю парванай». 21 лют. Выканком рады Усебеларускага з'езда ў 1-й Устаўнай грамаце да народаў Беларусі абвясціў сябе часовай уладай у краі, 9 сак. ў 2-й Устаўнай грамаце — аб стварэнні *Беларускай Народнай Рэспублікі* (БНР). У ноч на 25 сак. Рада БНР у 3-й Устаўнай грамаце абвясціла аб аддзяленні Беларусі ад Расіі і аб стварэнні незалежнай Бел. дзяржавы.

Ням. войскі занялі большую частку тэр. Беларусі. Неакупіраванымі засталіся толькі 14 паветаў Віцебскай і Магілёўскай губ.: Віцебскі, Гарадоцкі, Клімавіцкі, Мсціслаўскі, Чавускі, Чэрыкаўскі, часткова Аршанскі, Быхаўскі, Гомельскі, Горацкі, Лепельскі, Магілёўскі, Рагачоўскі і Сенненскі. Пасля падпісання сав.-герм. дадатковага дагавора ад 27.8.1918 пачаўся вывад ням. войск з акупіраванай тэрыторыі. Згодна з арт. 3 дагавора Германія абавязалася ачысціць тэрыторыю на У ад Бярэзіны. Да пач. ліст. 1918 быў вызвалены шэраг валасцей Аршанскага, Лепельскага, Магілёўскага, Полацкага і Сенненскага пав.

Да арт. **Брэсцкі мір 1918.** Мірныя перагаворы ў Брэсце. Сакавік 1918.

Лістападаўская рэвалюцыя 1918 у Германіі скінула ўладу кайзера Вільгельма II, паскорыла скасаванне Б. м. 13.11. 1918 Усерас. ЦВК ануляваў Брэсцкія пагадненні. Канчаткова Б. м. быў скасаваны паводле Версальскіх мірных пагадненняў 1919 з пераможанай Германіяй.

*Кр.:* Документы внешней политикн СССР. Т. 1. М., 1957; Советско-германские отношения от переговоров в Брест-Литовске до подпнсания Рапалльского договора. Сб. документов. Т. 1. М., 1968.

*Літ.:* Мнрные переговоры в Брест-Лнтовске. Т. 1. М., 1920; Беларусь: Нарысы гісторыі, эканомікі, культ. і рэв. руху. Мн 1924; Советская Россия н капнталистический мир в 1917—1923 гг. М., 1957, История международных отиошений н внешней политикн СССР, 1917—1987. Т. 1. М., 1986; Брестскне переговоры и Брестский мнрный договор // История внешней политнки СССР, 1917—1980. 4 изд. М,

1980 Т 1, Иностранная военная интервенция в Белоруссии, 1917—1920 Мн, 1990, Россия на рубеже веков Ист портреты М, 1991, Цвикевич А Краткий очерк возникновения Белорусской Народной Республики Киев, 1918, Ахтамзян А А От Бреста до Киля М, 1963, Самойло А А Две жизни 2 изд Л, 1963, Чубарьян А О Брестский мир М, 1964, Выгодский С Ю У истоков советской дипломатии М, 1965, Блинов С И Внешняя политика Советской России М, 1973, Круталевич В А Рождение Белорусской Советской Республики Мн, 1979, Коэн С Бухарин Полит биогр, 1888—1938 Пер с англ М, Мн, 1989, Троцкий Л Д Моя жизнь Опыт автобиогр Т 2 М, 1990, Ксенофонтов И Н Мир, которого хотели и который ненавидели Докум репортаж М, 1991, Волкогонов Д А Троцкий Полит портрет Т 1—2 М, 1992, Чернин О В дни мировой войны Мемуары Пер с нем М, Пг, 1923 Людендорф Э Мои воспоминания о войне 1914—1918 гг Пер с нем Т 2 М, 1924, Гофман М Записки и дневники, 1914—1918 Пер с нем Л, 1929, Черчилль В Мировой кризис Пер с англ М, Л, 1932

*П А Селіванаў, А В Ціхамiраў*

**БРЭ́СЦКІ ПАВЕ́Т,** адм-тэр. адзінка на Беларусі ў 16—20 ст Утвораны ў 1520 у Падляшскім, з 1566 у *Брэсцкім ваяводстве* ВКЛ У крыніцах 16—17 ст на старабел. мове Берасцейскі павет. Цэнтр — г *Брэст* (Берасце, Бярэсце, Брэст-Літоўск, Брэст-над-Бугам). Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Расійскай імперыі у Слонімскай, з 1797 у Літоўскай, з 1801 у Гродзенскай губ. Пл павета 4893,2 км$^2$, колькасць нас 218,4 тыс чал (1897) У склад павета ўваходзілі 23 воласці Велікарыцкая, Войская, Воўчынская, Высока-Літоўская, Вярховіцкая, Дамачаўская, Дварцоўская, Дзмітравіцкая, Жыцінская, Камянец-Жыровіцкая, Камянец-Літоўская, Косіцкая, Лышчыцкая, Маларыцкая, Матыкальская, Мяднянская, Олтушская, Палавецкая, Прыбараўская, Рагачыцкая, Радваніцкая, Ратайчыцкая, Турноўская. У 1-ю сусв вайну павет акупіраваны ням. войскамі (1915). У перыяд грамадз вайны і ваен інтэрвенцыі (1918—21) на тэр павета папераменна пабывалі войскі Германіі, Чырв Арміі і Польшчы. Паводле Рыжскага мірнага дагавора ў сак. 1921 павет у складзе *Заходняй Беларусі* адышоў да Польшчы і ўвайшоў у склад *Палескага ваяводства* Падзяляўся на тыя ж воласці (гміны). У 1928 пры ўзбуйненні гмін скасаваны Войская, Дварцоўская, Жыцінская, Лышчыцкая, Палавецкая, Прыбараўская, Радваніцкая гміны Пасля ўз'яднання Зах. Беларусі з БССР Б. п. 4.12.1939 увайшоў у склад *Брэсцкай вобласці* 15 1 1940 скасаваны, а вобласць падзелена на раены

*Літ* Волости и важнейшие селения Европейской России Вып 5 Спб, 1886, Административно-территориальное устройство БССР Справ Т 1 Мн, 1985, Адміністрацыйна-тэрытарыяльны падзел Беларусі Мн, 1985

*М І Камінскі*

**БРЭ́СЦКІ ПАДПО́ЛЬНЫ АБКО́М КП(б)Б** у Вялікую Айчынную вайну Створаны ЦК КП(б)Б і працаваў пад яго кіраўніцтвам з крас. 1943 да ліп 1944 Дзейнічаў на тэр. Брэсцкай вобл. Стварыў і ўзначальваў Брэсцка-Жабінкаўскі і Маларыцка-Дамачоўскі падпольны міжрайкомы КП(б)Б, Брэсцкі падпольны гарком КП(б)Б і 10 райкомаў [гл. *Раенныя падпольныя камітэты КП(б)Б*], якія аб'ядноўвалі 58 пярвічных парт. арг-цый, 1258 камуністаў у партыз фарміраваннях Накіроўваў дзейнасць *Брэсцкага партызанскага злучэння, Брэсцкага падпольнага абкома ЛКСМБ, Брэсцкага патрыятычнага падполля, Брэсцкаи абласной антыфашысцкай арганізацыі* і яе камітэта і інш Сакратары абкома С І *Сікорскі*, І І *Баброў* (да 1 11.1943, загінуў); члены В Ф Калібераў, С П. *Пацяруха* (абодва з 24.6.1943), А. І. *Федасюк* (24 6.1943—30 3 1944) Друкаваны орган — газ *«Заря»*, выдаваў бюлетэнь «Вести с Советской Родины», зводкі Саўінфармбюро, лістоўкі 2 райкомы выдавалі газеты Галоўная база — у Бярозаўскім р-не каля возера Спораўскае. У маі 1943 для кіраўніцтва падп работай і каардынацыі партыз. руху абком падзяліў тэр вобласці на 3 зоны, за кожнай з якіх замацаваў адказнага. У Пружанскай зоне (Косаўскі, Поразаўскі, Пружанскі, Ружанскі, Шарашоўскі р-ны) кіраўніцтва ажыццяўляў Пацяруха, у Брэсцкай (Брэсцкі, Дамачоўскі, Жабінкаўскі, Маларыцкі р-ны і г. Брэст) — З Ф *Паплаўскі*, у Кобрынскай (Антопальскі, Дзівінскі, Кобрынскі р-ны) — Федасюк.

Да стварэння падп. абкома ЦК КП(б)Б 4 11 1942 зацвердзіў сакратара Брэсцкага абкома КП(б)Б Сікорскага ўпаўнаважаным ЦК КП(б)Б па Брэсцкай вобл., яго памочнікамі — А М. Драздова, Пацяруху, Ф Дз. *Рому*, Федасюк. У сак 1943 яны, а таксама сакратар Брэсцкага абкома КП(б)Б Баброў, упаўнаважаны Брэсцкага абкома КП(б)Б Паплаўскі, рэдактар абл газ. «Заря»

Каліфераў прыляцелі ў тыл ворага ў размяшчэнне Мінскага падп. абкома КП(б)Б. З прыбыццем арганізатарскай парт. групы ў Брэсцкую вобл. быў створаны Б. п. а. КП(б)Б.

У гонар падп. абкома КП(б)Б у в. Спорава Бярозаўскага р-на ў 1960 пастаўлены абеліск; на месцы базіравання Брэсцкіх падп. абкомаў КП(б)Б і ЛКСМБ і штаба Брэсцкага партыз. злучэння каля в. Корачын Івацэвіцкага р-на створаны мемарыяльны комплекс Хаваншчына, *Музей партызанскай славы.*

*У Я Навуменка*

**БРЭ́СЦКІ ПАДПО́ЛЬНЫ АБКО́М ЛКСМБ** у Вялікую Айчынную вайну. Дзейнічаў на тэр. Брэсцкай вобл. з крас 1943 да 15.7.1944 пад кіраўніцтвам ЦК ЛКСМБ і *Брэсцкага падпольнага абкома КП(б)Б* Узначальваў дзейнасць Брэсцкага падп. гаркома ЛКСМБ, 18 райкомаў, 283 тэрытарыяльных, 70 пярвічных камсамольскіх арг-цый у партыз фарміраваннях, усяго больш за 3,5 тыс. камсамольцаў. Сакратары абкома **Ф.** Дз. *Рома* (з крас. 1943), М М *Лыжын* (1-ы сакратар з 2.2.1944); члены П. Ф. Круглоў, М. А. Лявонценка, К. М. Міранюк, М К Клімец, Р. І. Архіпаў, **Ф.** М Алісіевіч, Б. Ц. Шумілін; інструктары па падп. рабоце Б. М. Кот, П. А Сяменаў, Я С Волас. На тэр вобласці працавалі ўпаўнаважаны ЦК КП(б)Б С І. *Сікорскі*, сакратар ЦК ЛКСМБ **К** Т. *Мазураў*, інструктары ЦК ЛКСМБ па падп. рабоце М. А. Карповіч, М. І Сіманаў і інш На месцы базіравання Брэсцкіх абкомаў КП(б)Б, ЛКСМБ і штаба *Брэсцкага партызанскага злучэння* каля в Корачын Івацэвіцкага р-на створаны мемарыяльны комплекс Хаваншчына, *Музеи партызанскай славы.*

**БРЭ́СЦКІ ПАДПО́ЛЬНЫ КАМІТЭ́Т КП(б)ЛіБ** у гады грамадзянскай вайны і ваеннай інтэрвенцыі. Дзейнічаў з сак. 1919 да жн. 1920 пад кіраўніцтвам ЦК КП(б)ЛіБ. Членамі к-та ў розны час былі Я. Б. Быкін (старшыня), Н. Я Грынберг, С. Гурыновіч (парт. псеўд. Дзед), С. З. Крушынская, А Сакаленка, М П. Хаўкін (парт. псеўд. Мацвей), А. Хруслінскі (Антак) і інш У 1920 узначальваў падп Брэсцкую гар парт. арг-цыю, ячэйкі ў прыгарадных населеных пунктах, а таксама парт арг-цыі Ваўкавыска, Кобрына, Лунінца, Пінска, Пружан, Слоніма Арганізоўваў паліт. работу сярод насельніцтва і польскага войска, каардынаваў дзейнасць партыз. атрадаў на Палессі, трымаў сувязь з парт. арг-цыямі Беластока і Варшавы. Летам 1920 у час наступлення Чырв. Арміі на Зах. фронце ўстанаўліваў Сав. ўладу, 1.8.1920 стварыў ВРК, рабочую міліцыю. *М С Сташкевіч*

**БРЭ́СЦКІ ПЕДАГАГІ́ЧНЫ ІНСТЫТУ́Т** імя А. С Пушкіна. Заснаваны ў 1950 на базе Брэсцкага настаўніцкага ін-та У 1992/93 навуч. г. ф-ты фізіка-матэматычны, прыродазнаўства, фізічнага выхавання, філалагічны, педагагічны, дашкольнага выхавання, гістарычны (з 1991), даінстытуцкай падрыхтоўкі; 498 выкладчыкаў, у т. л. 20 праф. і дактароў навук, 228 дацэнтаў і кандыдатаў навук, 6,8 тыс. студэнтаў. Навучанне дзённае і завочнае. Дзейнічаюць навуч.-кансультацыйны пункт для студэнтаў-завочнікаў, аграбіял. станцыя, заалагічны музей, вылічальны цэнтр, сацыялагічная лабараторыя. Даследаванні па гісторыі, культуры, побыту і праблемах сучаснага развіцця Палескага краю, заканамернасцях развіцця бел і сусв. л-ры, праблемах функцыяніравання бел. і рус. мовы, сучасных нац. працэсах.

**БРЭ́СЦКІ ПЯХО́ТНЫ ПОЛК,** вайсковая часць у расійскай арміі ў 1806—1918. Сфарміраваны з 4 рот Шырванскага палка і рэкрутаў як Брэсцкі мушкецёрскі полк (да 1811). З 1820 93-і, з 1833 31-ы, з 1835 25-ы, з 1856 49-ы (у 1864—91 вялікага кн. Міхаіла Міхайлавіча) Брэсцкі пяхотны полк Найменне «Брэсцкі» атрымаў згодна з традыцыяй надаваць палкам назвы гарадоў і абласцей і з мэтай падкрэсліць роўныя правы жыхароў новадалучаных губерняў з астатнімі падданымі Расійскай імперыі. У *Айчынную вайну 1812* полк удзельнічаў у Барадзінскай бітве, разам з Разанскім, Крамянчугскім пях. палкамі, Мінскім пях. палком нанес вял. страты праціўніку каля в. Сяменаўскае. Выкарыстоўваўся для задушэння *паўстання 1830—31* у Польшчы, на Беларусі і ў Літве. У Крымскую вайну 1853—56 вызначыўся ў бітвах пры Ахалцыху (14.11.1853), каля Нігацкіх вышынь (27.5 1854), на рэках Чарох (4.6.1854) і Альма (каля в. Бурлюк; 8.9 1854) Пасля Кастр. рэвалюцыі расфарміраваны.

*Кр* Полн собр законов Российской империи Собр 1-е Т 29, № 22245, Собр 2-е Т 4, № 3214, Т. 8, отд 2 е, № 5943, Т 10, № 8088, Т 31, отд 2-е, № 30404, Т 54, отд 3-е, прилож № 59866, Бородино, 1812—1962 Документы, письма, воспоминания М, 1962

*Літ* Пузыревский [А К] Польско-русская война 1831 г Т 2 Приложения 2 изд Спб, 1890 *Ш І Бекцінееў*

**БРЭ́СЦКІ РАЁН.** Размешчаны на ПдЗ Брэсцкай вобл. Пл. 1,6 тыс. км². Насельніцтва 42,7 тыс чал. (без Брэста, 1992). Утвораны 15.1.1940 (у сучасных межах з 1950). Цэнтр — г. *Брэст* На 1.1.1991 у раене 143 населеныя пункты, у т. л. г. п. Дамачава, 11 сельсаветаў Гершонскі, Знаменскі, Клейнікаўскі, Лышчыцкі, Матыкальскі, Мухавецкі, Радваніцкі, Тамашоўскі, Тэльмінскі, Чарнаўчыцкі, Чэрнінскі. Паверхня раена нізінна-раўнінная. Большая частка ў межах Брэсцкага Палесся, невялікая паўн. частка — на Прыбугскай раўніне. Рэкі Зах Буг з прытокамі Лясная, Мухавец (уваходзіць у сістэму Дняпроўска-Бугскага воднага шляху), Спанаўка, Серадовая Рэчка, Рыта, Капаеўка; азёры: Селяхінскае, Страдзецкае, Чорнае, Рагазнянскае, Белае, Тайнае, Мяднянскае. Лясы займаюць 36 % тэр. раена, найб. буйныя масівы Тэльмінскі, Мухавецкі, Белавозерскі, частка Радваніцкага, Бары, Варахоўскі, Шэбрынскі, Целішанскі Каля Селяхінскага возера батанічны заказнік «Селяхі». Помнікі прыроды. Мяднянскія ельнікі, Лютаўскія букі. Праз Б. р праходзяць чыгункі Брэст — Баранавічы, Брэст — Лунінец, Брэст — Беласток (Польшча), Брэст — Ковель; аўтадарогамі звязаны з Баранавічамі, Пінскам, Камянцом, Маларытай

З ліп. 1941 раен акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Упартыя баі вялі байцы Брэсцкага ўмацаванага раена і *Брэсцкай крэпасці-героя* На тэр. раена акупанты стварылі лагеры смерці ў г. п. Дамачава, весках Тамашоўка, Рэчыцы (цяпер у межах Брэста), спалілі некалькі весак разам з насельніцтвам, у раене (без Брэста) загубілі 58 тыс сав грамадзян. У час вайны дзейнічалі *Брэсцкае патрыятычнае падполле, Брэсцкае камсамольска-маладзежнае падполле, Брэсцкая абласная антыфашысцкая арганізацыя, Брэсцкае партызанскае злучэнне,* падп. парт. і камсамольскія органы Раен вызвалены ад ням.-фаш. акупантаў у канцы ліп. 1944 часцямі 1-га Бел фронту ў выніку *Люблін-Брэсцкай аперацыі 1944.*

У гаспадарцы раёна асн. месца займае с.-г. вытворчасць. Тут 9 калгасаў, 8 саўгасаў, птушкафабрыка. Раен спецыялізуецца на малочна-мясной жывелагадоўлі, свінагадоўлі, развіта птушкагадоўля, агародніцтва, буракаводства і бульбаводства. На тэр. раена паляўніча-рыбалоўная гаспадарка, частка Брэсцкага лясгаса, пчолагадавальнік і інш. Асноўныя буйныя прадпрыемствы: з-д жалезабетонных вырабаў, лесагаспадарчае дрэваапрацоўчае прадпрыемства, 7 будаўнічых арг-цый, камбінаты электратэхн вырабаў і кааператыўнай прамысловасці.

У раене 15 сярэдніх, 13 васьмігадовых, 2 спартыўныя, 5 музычных школ, 52 клубныя ўстановы, 55 б-к, 34 кінаўстаноўкі, 6 бальнічных устаноў, 6 амбулаторый, 22 фельчарска-акушэрскія пункты. Раенная газ. «Заря над Бугом».

На тэр раена найбольш значныя помнікі археалогіі каля вёсак Дружба, Гуркі, Малыя Зводы, Прылукі і інш, могілкі салдат 1-й сусв. вайны ў в Тамашоўка; брацкія магілы сав. воінаў, партызан, пагранічнікаў і ахвяр фашызму ў весках Астрамечава, Вычулкі, Жыравецкая Камяніца, Збунін, Знаменка, Медна, Падлессе Радваніцкае, Прыбарава, Прылукі, Рагозна, Радванічы Вялікія, Скокі, Страдзеч (сярод пахаваных Герой Сав. Саюза М. Я. Аляксандраў), Тамашоўка, Сычы, Чарнаўчыцы (сярод пахаваных Герой Сав. Саюза В. І. Загароднеў), Чэрні, Чэрск, магілы ахвяр фашызму ў весках Камароўка, Ляплёўка, Лышчыцы, Медна, Міхалін, пас Мухавец, весках Падлессе Камянецкае, Прыбарава, Радванічы Вялікія, Радванічы Малыя, Страдзеч, Тамашоўка, Чарнаўчыцы. Помнікі дзеячу рэв. і нац.-вызваленчага руху ў Зах. Беларусі С Я. *Багданчуку* (пас. Мухавец), Герою Сав. Саюза М. **Ф** *Гастэлу* (в. Сычы), пагранічніку А. А. Новікаву і пагранічнікам (каля чыг. ст Дубіца ў весках Казловічы, Орхава, Прыбарава, Церабунь), сав. воінам (у вёсках

Івахнавічы, Сычы), ахвярам фашызму (в. Радванічы Малыя); землякам у вёсках Астрамечава, Вельямовічы, Гершоны, Збірагі, Казловічы, Калодна, Камароўка, Клейнікі, Малыя Зводы, у пас. Мухавец, вёсках Страдзеч, Сухарэвічы Малыя, Харсы, Церабунь, Яцкавічы, на месцы бою пагранічнікаў у 1941 у весках Знаменка, Неплі, каля в. Страдзеч; на месцы подзвігу і гібелі Героя Сав. Саюза М. Я. Аляксандрава каля в. Страдзеч. Помнікі архітэктуры: Крыжаўзвіжанская царква 17 ст. ў в. Вістычы, царква Ушэсця 19 ст. ў в. Вельямовічы, царква св. Лукі пач. 20 ст. ў г. п. Дамачава, Ільінская царква канца 18 — пач. 19 ст. ў в. Дубок, цэрквы 2-й пал. 19 ст. ў вёсках Гершоны і Сычы, Пакроўскія цэрквы 18 ст. ў вёсках Покры і Шчытнікі Малыя, Праабражэнскія цэрквы пач. 17 ст. з цэглы ў в. Шумакі, канца 18 ст. ў в. Медна, Міхайлаўскія цэрквы 19 ст. ў в. Астрамечава, са званіцай пач. 18 ст. ў в. Чэрск, цэрквы Параскевы Пятніцы 18 ст. ў в. Чарнаўчыцы і пач. 17 ст. ў в. Збірагі, Прачысценская царква 18 ст. ў в. Шэбрын, Афанасьеўская капліца рубяжа 19—20 ст. у в. Аркадзія, Троіцкі касцёл 16 ст. ў в. Чарнаўчыцы. Захаваліся сядзібы: 18 ст. Нямцэвічаў у в. Скокі, 19 ст. ў в. Малыя Зводы, сядзібны дом рубяжа 19—20 ст. у в. Сычы; крапасны форт 19 ст. ў в. Гершоны.

У Б. р. нарадзіліся: бел. філосаф-матэрыяліст К. *Лышчынскі* (в. Лышчыцы), польскі паэт і рэвалюцыянер Ю. Нямцэвіч (в. Скокі), лётчык-касманаўт, двойчы Герой Сав. Саюза П. І. *Клімук* (в. Камароўка).

*Літ.*: Свод памятников истории и культуры Белоруссии: Брестская обл. Мн., 1990.

*Р. Я. Пятрушын*

**БРЭ́СЦКІ САЦЫЯ́Л-ДЭМАКРАТЫ́ЧНЫ КАМІТЭ́Т БУ́НДА.** Узнік у кастр. 1897 у выніку ўступлення ў *Бунд* (Усеагульны яўрэйскі рабочы саюз у Літве, Польшчы і Расіі) *Брэсцкага тайнага таварыства рабочых і рамеснікаў 1895—97*. У ліст. 1897 разгромлены паліцыяй. У канцы 1902 аднавіўся. У 1903 у сувязі са сваёй гадавінай к-т правёў у прыгарадным лесе сходку 150 чалавек з чырв. сцягам, прамовамі пра задачы рабочага руху. 65 удзельнікаў сходкі былі арыштаваны. З гэтай нагоды к-т выдаў адозву «Да ўсіх брэсцкіх рабочых і работніц» (800 экз.), 27.11 (10.12).1904 арганізаваў у горадзе пад аховай узбр. дружыннікаў мітынг і маніфестацыю як пратэст супраць самавольства царызму і руска-японскай вайны. Гэта былі першыя адкрытыя выступленні працоўных горада супраць самадзяржаўя. Разам з *Брэсцкай арганізацыяй Польскай сацыялістычнай партыі ў Літве*, а са снеж. 1905 і Брэсцкай арганізацыяй РСДРП узначальваў *Брэсцкія выступленні працоўных 1905*. Адзін з гал. арганізатараў снежаньскай паліт. стачкі ў Брэсце, сваімі адозвамі абвясціў аб яе пачатку і спыненні.

Шмат увагі аддаваў арганізацыі барацьбы рабочых і прагрэс. грамадскасці горада супраць яўрэйскіх пагромаў. У крас. 1905 правёў 16 сходаў (у кожным удзельнічала каля 100 чал.), на

якіх разглядалася пытанне аб стварэнні атрадаў самаабароны ад пагромшчыкаў. І хоць у час пагрому 29 мая (11 чэрв.) атрады самаабароны былі разагнаны ваен патрулямі, пры падрыхтоўцы чарнасоценцамі новага пагрому ў кастр.— ліст. мясцовыя к-ты Бунда, ППС у Літве і сіяністаў-сацыялістаў рашуча заявілі паліцыі і ваен. уладам пра гатоўнасць створаных імі атрадаў самаабароны да барацьбы супраць пагромшчыкаў. Пагром быў прадухілены. К-т займаўся арганізацыяй эканам. барацьбы рабочых. У перыяд адступлення рэвалюцыі гэта дзейнасць стала для яго галоўнай Тут, як і ў Бундзе ў цэлым, распаўсюджваліся легалізатарскія настроі, узмацніўся ўхіл у нац -культурную дзейнасць.

З пачаткам рэакцыі к-т распаўся Адноўлены 24.8(6.9) 1909. На арганіз сходзе прысутнічала 25 чал. Напярэдадні 1-й сусв. вайны колькасць членаў арг-цыі вагалася ад 50 да 80 чал. Брэсцкі к-т накіроўваў дзейнасць бундаўскай групы ў мяст. Белае (20 чл. у 1909). Меў трывалыя сувязі з ЦК, *Гродзенскім сацыял-дэмакратычным камітэтам Бунда*, атрымліваў і распаўсюджваў сярод рабочых і рамеснікаў нелегальныя выданні. Былі створаны 3 гурткі па 15—30 чал па вывучэнні Эрфурцкай праграмы (1891), дзейнасці паліт. партый, прававога і эканам. становішча яўрэйскіх працоўных у Расіі У гады новага рэв. ўздыму пры арг-цыі дзейнічалі нелегальныя прафсаюзы на канвертных і гільзавых ф-ках, краўцоў, шаўцоў і маляроў. Рэгулярна праводзіліся сходы па 50—70 чал. У перадваенныя гады Брэсцкая, як і іншыя бундаўскія арг-цыі ў мяжы яўрэйскай аселасці, рэзка звузіла нелегальную дзейнасць, падтрымлівала ліквідатарскую плынь у РСДРП, намагалася абмежаваць рух яўрэйскага пралетарыяту барацьбой за частковыя эканам. паляпшэнні і нац.-культ. патрабаваннямі. За ўвесь міжрэв перыяд (1907—17) была праведзена толькі 1 паліт. стачка ў сувязі з кіеўскім судовым працэсам над яўрэем Бейлісам 25.9(8.10) 1913. Пераважна аддавалася т. зв. «петыцыйнай кампаніі» — збору подпісаў пад зваротамі ў Дзярж. думу Дзейнасць Брэсцкага к-та Бунда ў час грамадз вайны і ваен. інтэрвенцыі, а таксама ў 1921—39 не даследавана.

*Літ* Гл пры арт *Бунд*

*М. В Біч Э М Савіцкі.*

**БРЭ́СЦКІЯ ВЫСТУПЛЕ́ННІ БЕСПРАЦО́ЎНЫХ 1931—32** у Заходняй Беларусі Адбываліся ў перыяд эканам. крызісу 1929—33, які рэзка панізіў жыццевы ўзровень насельніцтва, выклікаў рост беспрацоўя. У пач. крас. 1929 у Брэсце было зарэгістравана 1,5 тыс. беспрацоўных, у 1931 — 3,4 тыс., у канцы 1932 — каля 4,4 тысячы. Брэсцкі акруг-ком КПЗБ прымацаваў да пунктаў найб. канцэнтрацыі беспрацоўных агітатараў, якія растлумачвалі прычыны беспрацоўя, заклікалі да барацьбы за паляпшэнне сац умоў. Гар. ўлады часта выкарыстоўвалі беспрацоўных на розных работах за нізкую плату. У вер. 1931 каля 200 часова занятых беспрацоўных аб'явілі забастоўку супраць намераў магістрата панізіць зарплату. На мітынгу яны абралі дэлегатаў для прад'яўлення гар. уладам патрабаванняў павысіць плату з 3 злотых да 3,5 і з 2,5 да 3 Пад лозунгам «Работы і хлеба!» беспрацоўныя рушылі да магістрата. Выступленне скончылася задавальненнем патрабаванняў беспрацоўных. У жн. 1932 яны разам з сем'ямі, патрабуючы работы і хлеба, сабраліся на мітынг каля магістрата. Прамоўцы заклеймавалі гаңьбай рэжым санацыі, які асуджаў іх на галечу і голад. Свае патрабаванні беспрацоўныя выклалі на дзесятках транспарантаў, развесіўшы іх па ўсім горадзе. Пасля адмовы гар. улад задаволіць патрабаванні жанчыны ўварваліся ў будынак магістрата і ўчынілі там пагром. Потым беспрацоўныя разграмілі сталовую і кухню, дзе ім выдавалі абеды з тухлых прадуктаў Скончылася сутычкай з паліцыяй Выступленні беспрацоўных Брэста праходзілі і ў наступныя гады

*І Ф Дзяшко*

**БРЭ́СЦКІЯ ВЫСТУПЛЕ́ННІ ПРАЦО́ЎНЫХ 1905.** Праходзілі пад кіраўніцтвам *Брэсцкага сацыял-дэмакратычнага камітэта Бунда, Брэсцкай арганізацыі Польскай сацыялістычнай партыі ў Літве*, са снеж. 1905 і *Брэсцкай арганізацыі РСДРП*. У студз. вялася агітацыя за ўсеагульную забастоўку ў сувязі з «Крывавай нядзеляй» у Пецярбургу 18(31) студз. ў Брэсце баставалі амаль усе фабрыкі і з-ды, друкарні, рамесныя майстэрні — да 5 тыс рабочых. Горад быў аб'яўлены на становішчы ўзмоцненай аховы, 74 чал. арыштаваны, у 3 адабрана зброя Забастоўка працягвалася 2 дні. 5(18), 12(25) лютага, 23 сак. (5 крас.) у горадзе адбыліся маніфестацыі, разагнаныя паліцыяй. 18 крас. (1 мая) праведзена агульнагар. першамайская забастоўка, у час якой паліцыя арыштавала 15 чал. 30 крас. ў цэнтры горада сабраўся мітынг (600 чал.), дзе прамоўцы выкрывалі самавольства паліцыі, распаўсюджвалі спецыяльна выдадзеныя пракламацыі. Паліцыю спынілі рэвальверным залпам. Не чакаючы падыходу войска, удзельнікі мітынгу разышліся Частка іх накіравалася да турмы, дзе наладзіла рэв. маніфестацыю. У той жа дзень вечарам адбылася дэманстрацыя з удзелам 2 тыс. чал., рассеяная ваен. патрулямі. Некалькі дэманстрантаў было арыштавана, адабрана зброя 29 мая (11 чэрв.) рэакц сілы арганізавалі ў Брэсце яўрэйскі пагром, у якім удзельнічалі салдаты-запасныя У час пагрому 7 чал. цяжка паранена, з іх 1 смяротна. Назаўтра ў час пахавання забітага адбылася антыўрадавая маніфестацыя каля 15 тыс. чал. На могілках гаварылі антыўрадавыя прамовы. 30 чэрв. (13 ліп.) у Брэсце прайшла ўсеагульная забастоўка ў памяць ахвяр пагрому і ў знак пратэсту супраць расстрэлаў рабочых у Лодзі і Адэсе. Напярэдадні распаўсюджвалася антыўрадавая лістоўка. Раніцай 30 чэрв. спец. атрад, не зважаючы на паліцыю, закрыў крамы. Адбыўся 3-тысячны мітынг. 28 ліп (10 жн.) на могілках праведзены 4-тысячны мітынг пратэсту супраць склікання бясправўнай Булыгінскай думы. Пасля мітынгу частка яго ўдзельнікаў арганізавала маніфестацыю перад кватэрай памочніка паліцмайстра Летам 1905 у Брэсце практычна штодзенна праводзіліся сходы рабочых. У жн. на 8 сходах 2 тыс. чалавек абмяркоўваўся маніфест аб скліканні Дзярж. думы. Сярод салдат распаўсюджваліся пракламацыі, выдадзеныя Варшаўскай ваенна-рэвалюцыйнай арганізацыяй. Пад уплывам агітацыі запасныя салдаты 119-га сапернага батальена адмовіліся выйсці на страявыя заняткі і прагналі з казармы камандзіра роты.

18—20 кастр. (31 кастр.—2 ліст ) рабочыя Брэста, у т. л. чыгуначнікі, далучыліся да Кастр. Усерасійскай паліт стачкі Вечарам на гал. вуліцах наладжваліся мітынгі. 4—5 (17—18) ліст на сходках і мітынгах выступалі прысланыя з Пецярбурга прадстаўнік Усерас саюза чыгуначнікаў машыніст Цімашэнка і невядомы агітатар-сацыяліст. Яны тлумачылі становішча ў краіне і заклікалі рабочых рыхтавацца да ўсерас. забастоўкі і ўзбр. паўстання. 16(29) ліст. Брэсцкая арг-цыя ППС у Літве правяла мітынг Яго ўдзельнікі не дазволілі паліцыі арыштаваць прамоўцу. 18 ліст. (1 снеж.) баявы атрад гэтай арг-цыі захапіў прыватную друкарню Кобрынца і надрукаваў там 500 экз адозвы «Да таварышаў рабочых, што служаць у паштова-тэлеграфнай канторы г. Брэста» з заклікам далучыцца да ўсерас. паштова-тэлеграфнай забастоўкі з мэтай звяржэння самадзяржаўя. На заклік адгукнуліся 22 (з 39) работнікі тэлеграфнага аддзела. На чале з механікам Сакаловым і наглядчыкам Мелехам 23 ліст. (6 снеж.) яны прыйшлі ў апаратную і звярнуліся да дзяжурных з заклікам спыніць работу, расклеілі ў канторы аб'явы пра байкот штрэйкбрэхераў. Гродзенскі губернатар загадаў брэсцкаму паліцмайстру арыштаваць Сакалова і Мелеха 27 ліст (10 снеж ) мясц арг-цыя ППС у Літве зноў захапіла друкарню Кобрынца і выдала ад свайго імя адозву з заклікам падтрымаць забастоўкі работнікаў паштова-тэлеграфнай канторы.

Адначасова ўзмацнялася агітацыя сярод салдат Брэсцкай крэпасці. 21 ліст. (4 снеж.) баявы атрад (каля 20 чал.) Брэсцкай арг-цыі ППС у Літве захапіў друкарню І. Ракаўца і, паводле звестак паліцыі, прымусіў рабочых надрукаваць 500 экз. адозвы «Да таварышаў салдат» з заклікам да барацьбы супраць царызму 22 ліст. пачаліся хваляванні салдат (гл. *Брэсцкія выступленні салдат 1905—07*).

У час Кастр. Усерасійскай паліт. стачкі і Снеж. ўзброенага паўстання рэв. арг-цыі Брэста прытрымліваліся тактыкі чакання вынікаў барацьбы ў Маскве і Пецярбургу. 11(24) снеж на мітынгу прамоўцы заклікалі да рашучай барацьбы з царскім урадам, да ўзбр. паўстання. Вырашэнне пытання пра пачатак і формы выступлення апынулася ў залежнасці ад пазіцыі мясц. арг-цыі Бунда. А яна

толькі 13(26) снеж.— праз тыдзень пасля пачатку ўзбр. паўстання ў Маскве — выдала лістоўку «Таварышы і грамадзяне!» з заклікам далучыцца да паліт. стачкі 14 снеж. ў 12 гадзін дня. Заклiку да ўзбр. паўстання ў ёй не было. 15(28) снеж. Брэсцкі к-т Бунда выдаў адозву «Да ўсіх», у якой адзначыў агульнагар. маштаб забастоўкі ў Брэсце. Аднак і ў ёй канкрэтных прапаноў па арганізацыі ўзбр. паўстання не было. А 19.12. 1905 (1.1.1906) у новай адозве «Да ўсіх» Брэсцкі к-т Бунда абвясціў забастоўку ў горадзе «часова спыненай».

У арганізацыі снежаньскай стачкі ў Брэсце ўдзельнічалі мясц. арг-цыя ППС у Літве і толькі што створаная Брэсцкая група РСДРП. У адозве «Да ўсіх грамадзян г. Брэста», выдадзенай у снеж. 1905 (5 тыс. экз.) у друкарні Пінскай арг-цыі РСДРП, змешчаны заклік да насельніцтва далучыцца да пралетарыяту, узбройвацца, рыхтавацца да ўсенар. барацьбы за свабоду. Лістоўка заканчвалася заклікам «Няхай жыве ўзброенае паўстанне!». Група РСДРП адыграла пэўную ролю ў падрыхтоўцы снежаньскіх выступленняў працоўных Брэста, аднак уплыў яе ў горадзе быў значна меншым, чым мясц. арг-цый ППС у Літве і к-та Бунда. Брэсцкая арг-цыя ППС у Літве актыўна ўдзельнічала ў правядзенні снежаньскай стачкі.

У 1905 значна ўзмацнілася і эканам. барацьба брэсцкіх рабочых, але яна па сваіх маштабах уступала паліт. выступленням. 2(15) мая баставалі рабочыя ўсіх друкарняў горада, патрабуючы 8-гадз. рабочага дня, павелічэння заработнай платы на 25 %, штотыднёвага разліку, набору аучняў толькі са згоды рабочых, выплаты заработнай платы за святочныя дні і на працягу 2 месяцаў хваробы, ветлівага абыходжання. Гаспадары прынялі ўсе ўмовы, замест 8-гадз. рабочага дня пагадзіліся на 9-гадзінны. 16(29) жн. пачаліся эканам. стачкі 39 рабочых гарбарнага з-да К. Зайдэля і 19 рабочых механічнага з-да Р. Шміта. Назаўтра да іх далучыліся 44 рабочыя іншых гарбарных з-даў з патрабаваннем павялічыць заработную плату. Гаспадары ўсіх 4 з-даў, за выключэннем К. Зайдэля, пайшлі на ўступкі рабочым. У час кастр. і снежаньскай стачак эканам. патрабаванні выставілі 75 рабочых гільзавай ф-кі, 57 рабочых канвертнай ф-кі, 10 рабочых лесапільнага завода. Рабочыя баставалі 3 дні і дамагліся свайго.

У час спаду рэвалюцыі 1906—07 масавы паліт. рух у Брэсце, як і ў іншых гарадах Беларусі, спыніўся. Эканамічная барацьба рабочых працягвалася, але стачкі, як правіла, набывалі абарончы характар і звычайна заканчваліся беспаспяхова.

*Кр.:* Революционное движение в Белоруссии 1905—1907 гг.: Документы и материалы. Мн., 1955; Документы и материалы по истории Белоруссии (1900—1917 гг.). Т. 3. Мн., 1953; Майзель Л. Н. 1905—1907 гг. на Беларусі: Хроніка падзей. Мн., 1934; 1905 год у Беларусі: Зб. арх. дакументаў. Мн., 1926. *М. В. Біч.*

**БРЭСЦКІЯ ВЫСТУПЛЕ́ННІ САЛДА́Т 1905—07,** рэвалюцыйныя выступленні салдат гарнізона *Брэсцкай крэпасці.* Адбываліся пад уздзеяннем рэв. руху ў краіне і агітацыі *Брэсцкай ваенна-рэвалюцыйнай арганізацыі РСДРП, Брэсцкай арганізацыі Польскай сацыялістычнай партыі ў Літве* (ППС у Літве) і *Брэсцкага сацыял-дэмакратычнага камітэта Бунда.* 22.11.1905 прайшоў мітынг салдат сапёрнай роты, на якім была прынята рэзалюцыя аб паляпшэнні ўмоў жыцця ваеннаслужачых. Праз 2 дні рота артылерыі гарнізона на чале са ст. пісарам Аляксандравым арганізавала мітынг, на які прыбылі 7-я, 11, 12, 15 і 16-я роты. Салдаты перадалі каменданту крэпасці прынятую на мітынгу рэзалюцыю з патрабаваннямі: вызваліць севастопальскіх і кранштацкіх матросаў, а таксама агітатараў-салдат Брэсцкага гарнізона, якіх утрымлівалі ў крэпасці; звольніць салдат звыштэрміновай службы; палепшыць умовы службы і інш. Артылерысты выступілі супраць удзелу войск у задушэнні рабочых і сял. хваляванняў. Брэсцкая ваенна-рэв. арг-цыя РСДРП выпусціла і распаўсюдзіла ў крэпасці адозвы «Да салдат Брэст-Літоўскай крэпасці», «Да ўсіх салдат Брэст-Літоўскай крэпасці і гарнізона», лістоўку «26 патрабаванняў ніжніх чыноў Брэст-Літоўскага гарнізона». Пад націскам салдат камандаванне вымушана было задаволіць некаторыя патрабаванні: дэмабілізаваць 20 ваеннаслужачых звыштэрміновай службы, палепшыць харчаванне, абмундзіраванне, а таксама вызваліць з-пад варты агітатара, што збіраў подпісы пад рэзалюцыяй. Адначасова вайск. ўлады ўзмацнілі нагляд за салдатамі, падслухоўвалі іх размовы з мясц. насельніцтвам у час звальнення, учынялі вобыскі і правакацыі. 5.12.1905 в. а. памочніка варшаўскага ген.-губернатара паведамляў у дэпартамент паліцыі, што настрой салдат Брэсцкага гарнізона ўзбуджаны, і патрэбны неадкладныя і рашучыя меры, каб не дапусціць у крэпасці падзей, падобных да кранштацкіх і севастопальскіх. Выступленне артылерыстаў не знайшло падтрымкі, было задушана.

Летам 1906 вайск. часці Брэсцкага гарнізона былі пераведзены ў летнія лагеры, што спрыяла ўзмацненню прапагандысцкай работы. 9 ліпеня салдаты 2-га асаднага артыл. палка, сярод якіх быў член ваенна-рэв. арг-цыі РСДРП М. Н. Какавіхін, выступілі з патрабаваннямі вызваліць арыштаваных таварышаў, атрымліваць усе газеты, палепшыць матэрыяльнае становішча. Паводле афіц. звестак, адной з прычын выступлення было прызначэнне салдат крапаснай артылерыі ў каравулы. Калі камандаванне адмовілася задаволіць патрабаванні і пачало арышты, салдаты ў ноч на 10 ліп. накіраваліся да 1-га батальёна артылерыі, дзе спалілі будынак афіцэрскага сходу, разграмілі салдацкую краму, паранілі некалькіх афіцэраў, у т. л. камандзіра артылерыі крэпасці ген. Іванова. Затым паўстаўшыя пайшлі да лагераў крапасных батальёнаў, каб прыцягнуць іх на свой бок, але былі сустрэты ружэйнымі залпамі. Сіламі Лібаўскага, Калужскага і часткі 152-га Уладзікаўказскага пях. палкоў паўстанцы былі акружаны і адведзены ў крэпасць. 700 удзельнікаў выступлення арыштаваны, 32 найб. актыўныя асуджаны на катаржныя работы.

Глыбокая незадаволенасць салдат крэпасці сваім становішчам прывяла ў ліст. 1907 да новых хваляванняў. Салдаты патрабавалі палепшыць харчаванне, абмундзіраванне, бытавыя ўмовы, адкрыць чытальні, звольніць з арміі ненавісных ім звыштэрміновых фельдфебеляў, а таксама асобных афіцэраў, што здзекаваліся і абкрадвалі іх. 24 ліст. вайскоўцы нестраявой роты крапаснай артылерыі натоўпам уварваліся ў казарму 16-й роты і ледзь не забілі яе камандзіра. 26 ліст. салдаты, што абслугоўвалі ваенны шпіталь Брэсцкай крэпасці, сабраліся ў сваёй казарме і запрасілі туды мед. і адм. начальства. Пісар шпіталя Агафонаў уручыў гал. ўрачу петыцыю з патрабаваннямі, што тычыліся паляпшэння матэрыяльнага становішча, быту і службы шпітальнай каманды. Салдаты былі настроены міралюбна. Начальства паабяцала далажыць пра ўсё каменданту крэпасці, і на гэтым хваляванне скончылася. Нягледзячы на неэфектыўнасць такіх форм пратэсту, падача калектыўных скаргаў і петыцый працягвалася ў крэпасці да канца 1907. У гонар рэв. выступленняў салдат у Брэсцкай крэпасці ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

*Кр.:* Документы и материалы по истории Белоруссии (1900—1917 гг.). Мн., 1953. Т. 3. С. 591—593; Революционное движение в Белоруссии в 1905—1907 гг.: Документы и материалы. Мн., 1955. С. 340, 361, 364—367, 572.

*Літ.:* Хроника важнейших событий истории Коммунистической партии Белоруссии. Мн., 1962. Ч. 1 (1883—1918 гг.). С. 129—130, 158; Липинский Л. П., Лукьянов Е. П. Крестьянское и солдатское движение в Белоруссии (1900—1907 гг.). Мн., 1968; Гісторыя Беларускай ССР. Т. 2. Мн., 1972. *М. В. Біч, У. Г. Філякоў.*

**БРЭ́СЦКІЯ ГАРАДСКІ́Я ЎМАЦАВА́ННІ.** Існавалі ў Брэсце ў 14—18 ст. Размяшчаліся па перыметры тэрыторыі, абмежаванай 2 рукавамі р. Мухавец. Агульная даўж. 2,5 км. Іх аснову складалі земляны вал з парканам і абарончы роў, запоўнены вадою (быў толькі з усх. боку, на астатніх участках вал абмываўся рукавамі ракі). Паводле пісьмовых звестак 16—17 ст. і планаў 17—19 ст., структура абароны Брэста вызначалася як стабільная. Зыходзячы з іх, можна меркаваць, што ў лініі гар. умацаванняў было як мінімум 4 брамы. Ва ўсх. частцы горада знаходзілася «брама от улицы Заугринки», якая выводзіла на Віленскі гасцінец, дарогу ў Кобрын і далей у паўд. і ўсх. раёны Беларусі. У розных дакументах яна называецца то «брама Виленская», то «брама Завгрынецкая». Другая брама — Пясочная — запірала «улицу Песок» і адчыняла шлях да «гостинца Краковского» ў Забужжа;

трэцяя — Рынкавая — адчыняла дарогу з гар. рынку ў *Брэсцкі замак*; чацвертая — Замухавецкая — выводзіла ў Замухавечча (за р. Мухавец) і далей на Ковель, у Валынь. Не выключана, што ў лініі ўмацаванняў стаяла і 5-я брама. Відаць, гэта была невял. традыцыйная «фортка» — выхад на гар. сенажаці, размешчаныя на Пн і ПнЗ ад «места», дзе пазней пабудавалі касцел брыгітак. Перад кожнай з брам былі масты. Мост перад Віленскай брамай меў 9—10 м даўжыні, астатнія былі ў некалькі дзесяткаў метраў, бо перакрывалі Зах Буг і Мухавец. Абарончы вал праходзіў па краі астраўной тэр горада У адным з дакументаў 1580 сказана, што «вал сам в собе цалый и до обороны местское пожиточный и городнями вколо ку обороне местской паркан на нем обудован». Параметры яго дакладна невядомы, хоць вал у раене «брамы Завгрынецкой так был широкий за городнями, яко через 2 сажни вшыр на ров ку воде для хоженья и обороны вшелякое, а з другой стороны от места межи домы местскими, а межи тымя ж городнями вколо тот же вал так был широкий, яко 2 возы великих скарбных оменутисе могли». Абарону Брэста ажыццяўлялі самі гараджане Рамеснікі, аб'яднаныя ў цэхавыя ваен. фарміраванні (мечнікі, слесары, кавалі, рэзчыкі, сталяры, шынкары, краўцы, пекары і інш ), паводле статутаў сваіх цэхаў абавязаны былі мець «супольную армату, . бубен і хоругву к оздобе для обороны места». Кожны цэх са сваей зброяй удзельнічаў у ваен аглядах — «пописах» — і ва ўсіх «потребах местских». Яны прымалі абавязковы ўдзел у рамонце ўмацаванняў, асобныя ўчасткі якіх былі замацаваны за кожным цэхам Сейм адзначаў стратэг важнасць Б г. у як «брамы Вялікага княства Літоўскага ў Карону», на якой трымалася «сіла ўсяе Рэчы Паспалітай» Нездарма адзін з гербаў Брэста меў выяву шчыта з лукам і нацятай стралой, а на гербе 16 ст. была выява вежы-брамы ў сутоках дзвюх рэк З канца 13 ст. Брэст трапіў у зону ваен. сутыкненняў паміж князямі ВКЛ і польскімі каралямі. Пасля вял. пажару 1525 гараджане прасілі караля перадаць ім у рукі права «у месте Берестейском мыто братн с купцов», абавязваючыся за гэтыя прыбыткі «ку обороне паркану гаковницы и порохи и иные потребы бронные справовати и к тому мосты мостити на Муховцы, на Угринце, на Струзе, у бронах и по улицам своим, где перед тым мащивали» Кароль даў дазвол на 10 гадоў, пры гэтым ен нагадаў, каб неадкладна, у першую чаргу пачалі будаваць «паркан как наши мещане, так и князские, и паньские, и духовные тыи вси маюць делницы свои заробити потому, как и перед тым всим местом робили». Для хутчэйшага аднаўлення ўмацаванняў горад вызвалілі на 10 гадоў *ад усіх падаткаў, што станоўча адбілася* на аднаўленні Б. г. у Паводле апісання Берасцейскага староства за 1566, тут быў нанава адбудаваны замак, «место в паркане», «место за парканом» і новы раен Замухавечча Рамонт умацаванняў праводзіўся паэтапна, для выканання «валавай работы» дробныя рамесніцкія цэхі аб'ядноўваліся. У 1648 казакі Б. Хмяльніцкага абрабавалі горад і цалкам яго разбурылі У час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* Варшаўскі сейм прыняў у 1654 спец дэкларацыю пра неадкладнае аднаўленне Б. г у. горад вызвалілі ад падаткаў, з *Брэсцкай эканоміі* ўсе прыбыткі накіроўваліся на мэты ваенна-фартыфікацыйных работ і закупкі амуніцыі, быў прысланы спец інжынер-фартыфікатар Для вядзення «валавай работы» з Брэсцкай эканоміі набіраліся людзі з разліку 1 тыдзень работы чалавека з 1 валокі. Б. г ў былі нанава спланаваны ў выглядзе магутнага пояса бастыенных умацаванняў, якія абкружалі горад і шырока спалучалі штучныя і прыродныя перашкоды Вайна, у якую ўключалася Швецыя, тармазіла аднаўленне ўмацаванняў Да 1657 новыя Б г. ў былі ў значнай ступені пабудаваны і далолі ўдала вытрымлівалі аблогу аб'яднаных войск шведскага караля Карла X і сяміградскага кн. Ракашы, аднак наемная ням. пяхота здала горад праціўніку У 1658 Брэст вызвалены войскамі Рэчы Паспалітай і работы па ўзвядзенні бастыеннай фартэцыі аднавіліся. Сейм Рэчы Паспалітай прыняў пастанову аб тэрміновым выдзяленні Брэсту 10 тыс злотых, пастаўцы патрэбнай колькасці пораху, ядзер і інш амуніцыі Гетман ВКЛ атрымаў наказ трымаць тут столькі пяхоты, колькі будуць патрабаваць абставіны У 1659 гэта пастанова сейма прадубліравана. Асабліва падкрэслівалася, што «моц усей Рэчы Паспалітай залежыць ад моцы фартэцыі Брэсцкай, якая з'яўляецца варотамі ў Карону і ў Вялікае княства Літоўскае» 8.1 1660 войскі маскоўскага ваяводы І. А Хаванскага захапілі і разбурылі горад, але ў сак. вымушаны былі пакінуць Брэст, хоць ен яшчэ двойчы пераходзіў з рук у рукі. Пры гэтым руйнаваліся яго ўмацаванні. Паслы ад Брэсцкага ваяв. неаднаразова нагадвалі сейму Рэчы Паспалітай пра неабходнасць аднаўлення фартэцыі. Пасля Паўночнай вайны 1700—21 Б г ў былі адноўлены, праіснавалі да канца 18 ст , калі зніклі пад гар. забудовай.

*Літ* Полное собрание русских летописей М, 1980 Т 35 С 68, 86, 112, 134, 156, Документы Московского архива Министерства юстиции Т 1 М, 1897 С 206—227, 442—446, Акты, издаваемые Виленской комиссией для разбора древних актов Т 28 Акты о евреях Вильна 1901 С 20 Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России, собранные и изданные Археографической комиссией Спб , 1861 Т 3 С 247, 283—284, 297, Ткачев М А Замки Белоруссии Мн, 1987 С 46—54

*М А Ткачоў*

**БРЭ́СЦКІЯ ДРУКА́РНІ** 16 ст. Дзейнічалі ў 1550—70-я гады ў Берасці (дакладная колькасць невядома) Мецэнатам большасці з іх быў канцлер ВКЛ, *ваявода віленскі і староста берасцейскі* М. Радзівіл Чорны. Узнікненню друкарняў садзейнічаў значны ўздым у культ. развіцці Беларусі, пашырэнне міжнар. культурных сувязей і ўплыў Рэфармацыі У ліку друкароў-кнігавыдаўцоў Б. Ваявудка (1553—54), С. Мурмеліус (1558—60-я гады), Ц. *Базылік* (1560—70-я гады). Першыя кнігі, выдадзеныя Ваявудкам, адпавядалі патрэбам рэфармацыйнага руху Вялікі і Малы Катэхізісы, перакладныя тэалагічныя творы Крыштофа Імлера і Урбана Рэгіуса. З выданняў Мурмеліуса вядомы «Два пасланні» (1559) — адказ папскаму нунцыю Ліпамано, у якім рэзка крытыкавалася царк.-рэліг палітыка рымскай курыі, яе бесцырымоннае ўмяшанне ў справы інш. краін; «Гісторыя пра папу Іаана VIII, які быў жанчынай» (1560); збор прававых твораў Б Грацкага — «Артыкулы права магдэбургскага», «Судовы працэс» (1560) і інш. Поўная колькасць выданняў выйшла без упамінання друкара *Брэсцкая біблія* (1563), сатырычная антыкаталіцкая паэма «Пратэй, або Пярэварацень» (1564), у якой высмейваліся некаторыя звычаі і традыцыі шляхты, «Размова паляка з ліцвінам» (каля 1564), дзе ўзняты важныя праблемы дзярж. і грамадска-паліт. ладу Польшчы і ВКЛ напярэдадні Люблінскай уніі 1569. Найбольшага росквіту кнігадрукаванне ў Берасці дасягнула пад кіраўніцтвам Базыліка. У гэты час надрукавана больш за 40 выданняў рознага зместу на польскай і лац. мовах, у якіх адлюстраваны духоўныя і ідэйныя сувязі прагрэс дзеячаў бел, літоўскай і польскай культур, разнастайныя белетрыстычныя, гіст., паліт. працы. Выдаўцы Б. д адрасавалі значную частку сваіх кніг «простым», «посполитым» чытачам У іх афармленні шырока выкарыстоўваліся рэнесансавыя графіка, наборныя арнаменты, гатычныя шрыфты, застаўкі, канцоўкі, фігурныя ксілаграфіі, адчуваецца сувязь з кніжным мастацтвам Польшчы і краін паўночнаеўрап Адраджэння

*Літ* Парэцкі Я І Антырэлігійная сатыра Брэсцкага друкарскага двара ў XVI ст // Беларуская літаратура Мн, 1979 Вып 7, Drukarze dawnej Polski od XV do XVIII wieku Z 5 Wielkie Księstwo Litewskie Wrocław, Krakow 1959

*Г Я Галенчанка*

**БРЭ́СЦКІЯ МАНЕ́ТНЫЯ СКА́РБЫ.** Знойдзены ў Брэсце.

Скарб 1837. Складаўся з 1035 сярэбраных манет агульнай масай 3027,692 г пражскія грошы 14 ст. (1034 экз.); кракаўскі грош часоў праўлення Казіміра III [1333—70] — адзіная знаходка на тэр. Беларусі. Схаваны ў 1420-я гады. Пасля вывучэння ў Эрмітажы перададзены ў Прыдворную кантору (Пецярбург) Далейшы лес невядомы.

Скарб 1884 Складаўся з 153 сярэбраных манет польскія 6-грашовікі 1660—66, 1678, 1679, 1681, 1682, 1684, літоўскі 6-грашовік 1666 Рэчы Паспалітай; паўпатагон 1657 Іспанскіх Нідэрландаў; 6-грашовікі 1679, 1682, 1683, *1685, 1686 Прусіі. Схаваны ў 2-й пал 1680-х гадоў Здадзены ў пераплаўку* на Пецярбургскі манетны двор.

Скарб 1960 Знойдзена каля 10 сярэбраных рублёвікаў Паўла I [1796—1801]. Схаваны ў пач. 19 ст. Лес невядомы.

Скарб 1961. Знойдзены 2 медныя манеты Рымскай імперыі — выключна рэдкая знаходка антычных манет на Беларусі Захоўваецца ў Брэсцкім абл. краязнаўчым музеі.

*Літ* Харламповіч П Праскія грошы ў беларускіх манетных скарбах // Гістарычна-археалагічны зборнік Мн., 1927. № 1, Фасмер Р Р. Список монетных находок, зарегистрированных Секцией нумизматики и глиптики Академии истории материальной культуры в 1920—1925 гг // Сообщения Государственной Академии истории материальной культуры Л, 1926 № 1

**БРЭШКА-БРАШКО́ЎСКАЯ** (дзявочае Вярыга) Кацярына Канстанцінаўна [22 1 (3.2).1844—12.9.1934], рэвалюцыянерка-народніца, адзін са стваральнікаў і лідэраў партыі *эсэраў*. З дваран Чарнігаўскай губ З дзяцінства была знаема з С П *Каваликам*, у раннім узросце захапілася рэв ідэямі У 1871 угаварыла свайго бацьку (у той час міравога пасрэдніка ў Мглінскім пав Чарнігаўскай губ.) садзейнічаць выбранню Кавапіка міравым суддзей, а лібэральнага памешчыка Байдакоўскага — гласным Мглінскага земства. З вер. 1873 да восені 1874 жыла ў Кіеве. Адзін са стваральнікаў і актыўных чл. «Кіеўскай камуны» — гуртка ўдзельнікаў «хаджэння у народ» Разам са сваім таварышам па камуне В Ф. Фішэрам арганізавала ў маентку Гараны Полацкага пав. (цяпер Полацкі р-н), што належаў яе стрыечнай сястры І. Вярыга (Філіп), пункт збору прапагандыстаў і іх падрыхтоўку да «хаджэння ў народ». Летам 1874 Б-Б двойчы «хадзіла ў народ». у Херсонскую (разам з Каленкінай) і Падольскую (са Сцефановічам) губ., дзе ў вер. 1874 арыштавана. Пасля 3-гадовага зняволення ў турме была засуджана па «працэсе 193-х» да 5 гадоў катаржных работ у Сібіры. Адбывала пакаранне на р. Кара (Забайкалле), адкуль беспасляхова спрабавала ўцячы Вызвалена ў 1896 па амністыі Ухіляючыся ад нагляду паліцыі, знаходзілася на нелегальным становішчы. У канцы 1890-х гадоў жыла ў Мінску Арганізоўвала транспарціроўку з-за мяжы нелегальнай л-ры, разам з А В *Бонч-Асмалоўскім*, Р А *Гершуні* і інш ўдзельнічала ў стварэнні *Рабочай партыі палітычнага вызвалення Расіі*, пасля яе разгрому аб'ядноўвала ўцалелыя гурткі ў партыю эсэраў У 1901 у Саратаве ўдзельнічала ў выданні 1-га нумара «Крестьянской газеты». У гэты перыяд адстойвала думку пра неабходнасць прапагандысцкай работы сярод сялян, была прыхільніцай «аграрнага тэрору» (патравы, парубкі і інш.) Восенню 1901 прыняла ўдзел у стварэнні Баявой арг-цыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў, у 1902 — Сялянскага саюза Партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў. У 1903 эмігрыравала ў Швейцарыю, у 1904 пабывала ў ЗША. У 1905 вярнулася ў Расію, працавала ў эсэраўскіх арг-цыях, неаднаразова выбіралася ў ЦК партыі, была адным з лідэраў яе правага крыла. У рэв. руху стала вядома як «бабуля рускай рэвалюцыі». У 1907 зноў арыштавана і пасля 2-гадовага зняволення саслана ў Сібір, адкуль вярнулася пасля Лют. рэв. 1917 Падтрымлівала Часовы ўрад. Кастр. рэвалюцыю сустрэла непрыхільна. У 1919 чл. Камуча (Камітэт членаў Устаноўчага сходу) у Самары. У тым жа годзе эмігрыравала ў ЗША У 1924 пераехала ў Чэхаславакію, дзе і памерла.

*Тв* Из моих воспоминаний Спб, 1906; Воспоминания пропагандистки // Былое 1903 № 4

*Літ* Итенберг Б С Движение революционного народничества М, 1965, Коварский Б Е К Брешковская Пг, 1917, Спиридович А И Революционное движение в России Вып 2 Партия социалистов революционеров Пг, 1916, Слетов С К истории возникновения партии социалистов-революционеров Пг, 1917, Революционное народничество 70-х гг XIX в Сб документов и материалов Т 1 М, 1964 *М А Сакалова*

**БСРГ**, гл. *Беларуская сялянска-работніцкая грамада.*

**БУГАЁЎ** Яўген Іосіфавіч [н. 28.11(11.12).1912, в. Красова Дрысенскага пав. (цяпер Верхнядзвінскі р-н)], беларускі гісторык, публіцыст Д-р гіст. навук (1971) Засл работнік культуры РСФСР (1977) Скончыў Маскоўскі ін-т гісторыі, філасофіі і л-ры імя М Г. Чарнышэўскага (1940), ВПШ пры ЦК ВКП(б) (1942). У 1930—38 настаўнік на Віцебшчыне У 1939 уступіў у КПСС У 1939—41 сакратар Віцебскага, 1-ы сакратар Брэсцкага абкомаў ЛКСМБ. З 1942 у апараце ЦК, МГК ВКП(б). З 1944 сакратар Гомельскага абкома, з 1946 сакратар ЦК, з 1948 1-ы сакратар Мінскага абкома і гаркома КП(б)Б, з 1949 сакратар Омскага абкома ВКП(б). У 1954—56 нам. гал. рэдактара час. «Партнйная жизнь», у 1956—58 заг. сектара прапаганды ЦК КПСС, у 1958—60 заг. аддзела час. «Проблемы мира и социализма». Гал. рэдактар час. «Вопросы истории КПСС» (1960—61), «Партийная жизнь» (1961—66), нам. гал. рэдактара час. «Коммунист» (1966—86) Адначасова з 1943 выкладаў у ВНУ, у 1946—47 заг. кафедры ў Рэсп. парт. школе пры ЦК КП(б)Б, з 1965 дацэнт, у 1972—87 праф. Акадэміі грамадскіх навук пры ЦК КПСС Дэп Вярх Савета БССР у 1947—51, яго старшыня ў 1948—50 Чл. Цэнтр. Рэвізійнай Камісіі КПСС у 1961—66 Аўтар кніг і брашур па гісторыі КПСС і КПБ. Узначальваў аўтарскія калектывы, у т. л. 3-га тома (у 2 кнігах) шматтомнай «Гісторыі Камуністычнай партыі Савецкага Саюза» (М, 1967—68) Упершыню ўвеў у гіст. навуку невядомыя раней дакументы з архіва ЦК КПСС пра ўтварэнне БССР і КПБ

*Тв* Советская Белоруссия к тридцатилетию Великой Октябрьской социалистической революции Мн, 1947, Возникновение большевистских организаций и образование Компартии Белоруссии М, 1959, Наша ленинская партия М 1963, Беседы об Уставе КПСС 2 изд М, 1964 (разам з Б М Лейбзонам), Беседы о партии М, 1972, Молодежи о партии 4 изд М, 1979, Как ленинская партия боролась за власть трудящихся М, 1983 (на партуг мове), Что такое партия? М, 1986 (на англ мове) *У М Міхнюк*

**БУДА**, прадпрыемства са спецыяльна абсталяванай печчу для смалакурэння, гонкі дзегцю, выпальвання драўнянага вугалю, вытв-сці паташу. Былі пашыраны ў 15 — сярэдзіне 19 ст., гал. чынам у лясістай усх. і паўд. частках Беларусі (Падняпроўе і Палессе). Належалі пераважна буйным землеўладальнікам і лесапрамыслоўцам, якія выкарыстоўвалі працу прыгонных сялян, а пазней наемных рабочых. Асн. катэгорыямі рабочых на Б. былі *буднікі* — клепачнікі, карытнікі, палівачы і інш., абслугоўваючы персанал — конюхі, кавалі, бондары, цагельнікі і інш., адм. апарат — атаман, пісар, казначэй (шафар) і наглядчык (дазорца). На тэр. Б. размяшчаліся вытв. ўчастак, склады для сыравіны і гатовай прадукцыі, памяшканні для адміністрацыі і абслугоўваючага персаналу З сярэдзіны 19 ст ў сувязі са скарачэннем сыравіннай базы і паніжэннем попыту яа прадукцыю Б паступова пачалі знікаць. У 19 ст. лепш абсталяваныя Б. часцей называліся смалярнямі ці смалакурнямі. *Н І Буракоўская*

**БУ́ДА**, веска ў Дубровенскім р-не Цэнтр саўгаса імя Ю. В. Смірнова. За 11 км на Пн ад г. Дуброўна, за 2 км ад чыг. ст. Асінаўка на лініі Орша — Смаленск, на шашы Мінск — Масква 429 ж., 152 двары (1992).

У часы ВКЛ уваходзіла ў Дубровенскае графства Глябовічаў, затым Сапегаў. У выніку 1-га падзелу Рэчы Паспалітай з 1772 у складзе Расійскай імперыі — да 1840 у Бабінавіцкім, потым — у Аршанскім пав. Магілёўскай губ. З 20.8.1924 цэнтр Будскага сельсавета Дубровенскага р-на, з 15.10.1931 Аршанскага р-на. У 1941 у Б. 92 двары, 406 ж. У пач. Вял. Айч. вайны (ліп. 1941) адступаючыя часці 18-й стралк дывізіі 20-й арміі ў раене Б. вялі абарончыя баі з пераўзыходзячымі сіламі ням.-фаш. войск. У час акупацыі дзейнічала (жн. 1941 — кастр. 1943) *Асінторфскае камсамольска-маладзежнае падполле* У кастр 1943 гітлераўцы спалілі 87 двароў вескі, загубілі 34 чал Вызвалена ў час Бел. аперацыі ў чэрв 1944 войскамі 31-й арміі 3-га Бел фронту З 9.9.1946 да 17.12.1956 цэнтр сельсавета ў Арэхаўскім р-не, пасля зноў у Аршанскім р-не. З 16.9.1960 Б. ў адм. падпарадкаванні рабочага пас Асінторф. З 1965 у Пірагоўскім сельсавеце. У 1970 104 двары, 339 ж Сярэдняя школа, клуб, дзіцячы сад-яслі, аддз. сувязі, майстэрня быт. абслугоўвання Брацкая магіла сав. воінаў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, помнікі падпольшчыкам Асінторфа (за 0,5 км), Герою Сав Саюза Ю. В. *Смірнову*. *М І Камінскі*

**БУДА́Й** Генадзь Васілевіч (26.6.1918, мяст. Койданава, цяпер г. Дзяржынск — 22.11.1988), беларускі журналіст. Засл

дзеяч культуры БССР (1968). У 1938—41 вучыўся ў Камуніст ін-це журналісты-кі, скончыў БДУ (1959) У Вял. Айч. вайну адзін з арганізатараў і кіраўнікоў Дзяржынскага патрыят падполля. У крас — снеж. 1943 нам кіраўніка Івянецкага падп. міжрайпартцэнтра, адначасова рэдактар падп газ «Народный мститель» (чэрв 1943 — лют 1944). З кастр 1943 чл Івянецкага падп райкома КП(б)Б, у лют — чэрв 1944 рэдактар газ «Чырвоная звязда» Баранавіцкага падп абкома КП(б)Б. Пасля вайны на журналісцкай рабоце У 1972—86 гал. рэдактар час «Коммунист Белоруссии» Чл ЦК КПБ у 1976—86 Дэп Вярх. Савета БССР з 1975 Аўтар кн «Свінцом і словам» (2 выд 1981, Дзярж прэмія БССР 1984)

**БУ́ДА-КАШАЛЁВА**, горад, цэнтр Буда-Кашалеўскага р-на За 48 км на ПнЗ ад Гомеля Чыг. ст. Буда-Кашалеўская на лініі Мінск — Гомель, праходзяць аўтамабільныя дарогі на Магілеў, Гомель, Бабруйск 9,2 тыс чал. (1991).

Да 1861 веска дзярж сялян Кашалеўскай вол. Рагачоўскага пав. Магілеўскай губ Пачала расці пасля пракладкі ў 1873 *Лібава-Роменскай чыгункі* З 1877 чыг. станцыя. У 1888 заснавана прадпрыемства па вырабу драўляных дэталей ткацкіх станкоў. Паводле перапісу 1897, 517 жыхароў. Напярэдадні 1-й сусв. вайны 58 двароў, ветраны млын Сав. ўлада ўстаноўлена ў ліст. 1917. У сак — ліст. 1918 акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі. З 1924 цэнтр Буда-Кашалеўскага р-на Бабруйскай (1924—27), Гомельскай (1927—30) акруг, з 1938 гар. пас Гомельскай вобл. 3,4 тыс ж. (1939) У жн 1941— 27 11 1943 акупіравана ням.-фаш захопнікамі, якія загубілі тут 485 чал У паселку і на тэр раена дзейнічалі падп. райкомы КП(б)Б (сак — 23 11 1943) і ЛКСМБ (1.6—25.11 1943), выдавалася падп газ «Ленінскі шлях» Вызвалена войскамі 4-й стралк дывізіі (палк. Дз. Дз Вараб'еў) і 231-га танк. палка (падпалк. Ф М Кавалеў) 48-й арміі Бел. фронту ў ходзе *Гомельска-Рэчыцкай аперацыі 1943* пры ўдзеле партызан. У 1959 4,6 тыс ж З 31 12 1971 горад.

Масласырзавод, хлебазавод, кансервавы з-д, філіял Веткаўскага вытв. аб'яднання буд. матэрыялаў, камбінат быт. абслугоўвання, міжраеннае інжынерна-вытворчае аб'яднанне, лягсас. Агратэхн. коледж, 2 сярэднія, муз. і дзіцяча-юнацкая спарт. школы, Дом піянераў і школьнікаў, Дом культуры, 2 б-кі, бальніца. Выдаецца газ. «Авангард».

У горадзе брацкія магілы сав. воінаў (паўн.-зах. ўскраіна), сав. воінаў і партызан (вул. Леніна, у скверы), ахвяр фашызму (за 1,5 км на ПнЗ ад горада); помнікі двойчы Герою Сав. Саюза П. Я. *Галавачову*, военачальніку, ураджэнцу горада В. П *Драздў* На ўшанаванне памяці 16 выпускнікоў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, на будынку школы № 1 мемарыяльная дошка. Курган Славы на ўшанаванне памяці землякоў, што загінулі на франтах Вял. Айч вайны, помнік воінам, што загінулі ў Афганістане. *А Б Ягорава*

БУДА КАШАЛЁЎСКІ РАЕН

**БУ́ДА-КАШАЛЁЎСКІ РАЁН.** Размешчаны на ПнУ Гомельскай вобл. Пл 1,6 тыс. км$^2$, насельніцтва 29 870 чал (1990) Утвораны 17.7 1924. Цэнтр г. *Буда-Кашалева* На 1 1 1991 у раене 271 населены пункт, у т л г п *Уваравічы*, 21 сельсавет Акцябрскі, Буда-Люшаўскі, Бярвенаўскі, Глазаўскі, Губіцкі, Гусявіцкі, Дубравіцкі, Забалоцкі, Івольскі, Камунараўскі, Кашалеўскі, Крыўскі, Ліпініцкі, Марозавіцкі, Мікалаеўскі, Недайскі, Патапаўскі, Рагінскі, Узаўскі, Чабатовіцкі, Шырокаўскі. Пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС 1986 частка раена стала зонай радыяцыйнага кантролю, частка населеных пунктаў — зонай адсялення. Паверхня раёна — плоская раўніна, якая паступова павышаецца на ПнУ, дзе рэльеф больш расчлянены. Рэкі Дняпро, Уза, Ліпа, Чачора і інш , шмат невял. азер Лясы займаюць 20 % тэр. раена, найбуйныя масівы на З — Борхаўская лясная дача. Размешчаны 1-ы на Беларусі фазанарый; ахоўныя аб'екты прыроды — дубы-волаты на тэр Буда-Кашалеўскага лягсаса, у міжрэччы Дняпра і Сажа біялагічны заказнік «Буда-Кашалёўскі» (створаны ў 1988 для захавання фрагментаў каштоўных дуброў). Па тэр раена праходзяць чыгунка і аўтадарога Бабруйск — Гомель, аўтадарога Магілеў — Гомель.

Раен утвораны 17 7 1924 у складзе Бабруйскай акругі, з 27.10 1927 у Гомельскай акрузе (да ліп 1930), з 20.2.1938 у Гомельскай вобл; частка тэр да 1962 уваходзіла ва *Уваравіцкі раен* У Вял Айч. вайну са жн 1941 акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія забілі тут 1238 чал. На тэр. раена дзейнічалі Буда-Кашалеўскі і Уваравіцкі падп. райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ, партыз. брыгады 1-я Буда-Кашалеўская, 8-я Рагачоўская, 10-я Журавіцкая, імя Чапаева, імя Шчорса, 108-я імя Катоўскага, асобны партыз. атрад. Выдавалася падп. газ. «Ленінскі шлях» За 8 км ад в. Лозаў 29.4.1943 партызаны 10-й Журавіцкай партыз. брыгады вялі цяжкі бой з ням -фаш. захопнікамі, якія імкнуліся знішчыць партыз атрады, што дзейнічалі ў раене варожых камунікацый Раен вызвалены ў канцы ліст. 1943 войскамі 48-й арміі Бел. фронту ў ходзе *Гомельска-Рэчыцкай аперацыі 1943*

У сельскай гаспадарцы раена асн месца займае малочна-мясная жывела-

ıадоўля, пашыраны пасевы збожжавых ı бульбы. На 1.1.1991 было 12 калгасаў ı 18 дзяржгасаў. Прадпрыемствы харчовай і буд. матэрыялаў прам-сці. У раёне (без Буда-Кашалёва) 21 сярэдняя, 15 васьмігадовых, 6 муз. і дзіцяча-юнацкая спарт. школы, 38 дашкольных устаноў, Дом піянераў і школьнікаў, 48 клубных і 46 бібліятэчных устаноў, 48 кінаўстановак (у т. л. 46 стацыянарных), 3 бальнічныя ўстановы, 37 фельчарска-акушэрскіх пунктаў. Выдаецца раенная газ. «Авангард».

Найб. значныя археал. помнікі: Асавок, Дубраўка, Дуравічы, Іволльск, *Уваравічы*, *Чабатовічы*. Брацкія магілы сав. воінаў і партызан, што загінулі ў Вял. Айч. вайну, у вёсках: Акцябр, Асобіна, Буда-Люшаўская, Глазаўка, Губічы, Забаб'е, Іволльск, Калініна, Ліпа, Недайка, Новая Гусявіца, Патапаўка, Рагінь, Рудзянец, Рудня-Кашалёўская, Саўгасная, Слабада-Люшаўская, Смычок, Струкі, Сялец, Хоўхла, Фундамінка, Шарыбаўка, у пас. Пабядзіцель. Помнікі: землякам, што загінулі ў Вял. Айч. вайну, у в. Бацунь, Буда-Люшаўская, Дзербічы, Дуравічы, Елянец, Забалоцце, Іволльск, Кашалёў, Крыўск, Ліпнічы, Марозавічы, Новая Гусявіца, Пянчын, Рагінь, Радзеева, Смычок, Старая Буда, Хоўхла, Шырокае; на магілах Героя Сав. Саюза С. А. *Панамарова* (в. Мікалаеўка), падпольшчыкам у в. Уза, партызанам у пас. Губіцкі Кардон, на месцы базіравання Уваравіцкага падп. РК КП(б)Б і партыз. брыгады імя Шчорса, на месцы бою партызан каля в. Лозаў. Сярод ураджэнцаў раёна двойчы Герой Сав. Саюза П. Я. *Галавачоў* і бел. філосаф, акадэмік АН Беларусі К. П. Буслаў (в. Кашалёў), нар. мастак Беларусі В. К. Цвірка (в. Радзеева), нар. артыст СССР П. С. *Малчанаў* (в. Іволльск).

*А. Б. Ягорава.*

**«БУДАКІ»**, будакі-паны, група насельніцтва бел. паходжання на тэр. былога Лукаянаўскага пав. Ніжагародскай губ. (сучасныя паўд. раёны Ніжагародскай вобл. Расіі). Пачатак утварэння групы «Б.» быў пакладзены ў 1-й пал. 17 ст. (цараванне Аляксея Міхайлавіча) прымусовым перасяленнем этнічна бел. насельніцтва, што ў расійскіх крыніцах 19—пач. 20 ст. было вядома пад назвай «мензелінская шляхта». Назва паходзіць ад занятку гэтых людзей у мінулым будным промыслам (скажонае ад буднікі). Велікарускае наваколле называла «Б.» таксама «літвой», «палякамі», «польшчай». Паводле перапісу 1897, з 995 беларусаў, што жылі ў той час на тэр. былой Ніжагародскай губ., большасць (67,5 %) была сканцэнтравана ў Лукаянаўскім пав.

*Літ.:* Исторический очерк Нижегородского края Б. м., Б. г. *І. В. Карашчанка.*

**БУДАЎНІЧЫ**, службовая асоба ў ВКЛ, якая наглядала за ўсімі грамадскімі будынкамі. У вял. гарадах Б. выбіралі з членаў магістрата. Апрача нагляду Б. займаўся зборам падаткаў за будынкі.

**БУДЗІВІД**, князь ВКЛ 2-й пал. 13 ст., брат *Будзікіда.*

**БУДЗІКІД** (?—?), князь ВКЛ у 13 ст. Упамінаецца ў Іпацьеўскім летапісе пад 1289, калі ён са сваім братам Будзівідам аддаў г. Ваўкавыск валынскаму кн. Мсціславу Даніпавічу, каб захаваць з ім мір. У некаторых ням. хроніках Б. выступае пад імем Путувера і Лютувера. Апошні ўпамінаецца ў хроніцы П. Дусбурга пад 1291 як князь літоўскі, бацька *Віценя.* Магчыма, Б. пасля смерці кн. Трайдзеня разам з братам стаў вял. князем. Перадача Ваўкавыска магла азначаць паступовую страту Навагародскай зямлёй сваёй дамінуючай ролі ў ВКЛ.

*Літ.:* Ермаловіч М. І. Старажытная Беларусь: Полацкі і новагародскі перыяды. Мн., 1990. *М. І. Ермаловіч.*

**БУДЗІЛОВІЧ** Аляксандр Фаўставіч [14(26).2.1829, в. Жэрчыцы Бельскага пав. Беластоцкай вобл.— пасля 1870], удзельнік рэв. руху 1860-х гадоў. З сям'і святара-беларуса. Рана страціў бацьку. Маці вывучылася ў Беластоку на павітуху і была накіравана на працу ў Віцебск. Скончыў Полацкую духоўную семінарыю (1853), але ад кар'еры святара адмовіўся. З 1854 на вайск. службе, у 1859 атрымаў афіцэрскі чын. На пач. 1860-х гадоў актыўны дзеяч падп. *Камітэта рускіх афіцэраў у Польшчы* (прозвішча Б. як аднаго з кіраўнікоў рэв. работы ў Алонецкім пях. палку і ўсёй 4-й дывізіі значылася ў сакрэтнай запісной кніжцы М. П. Агарова). На пач. 1863 арыштоўваўся ў сувязі са знойдзенымі ў яго нелегальнай брашурай «Цэнтральны народны камітэт і выдаўцы «Колокола» ў Лондане» і іншымі канспіратыўнымі матэрыяламі. У вер. 1863 выйшаў у адстаўку ў чыне падпаручніка. У лютым 1864 за правоз зброі арыштаваны ў Дынабургу (цяпер Даўгаўпілс) і высланы ў Пермскую губ. Па амністыі 1867 вызвалены і пасяліўся ў Польшчы. Далейшы лёс невядомы.

*Літ.:* Русско-польские революционные связи. Т. 1. М., 1963. (Восстание 1863 года. Материалы и документы); Кісялёў Г. Справа падпаручніка Будзіловіча // Кісялёў Г. Героі і музы. Мн., 1982.

*Г. В. Кісялёў.*

**БУДЗІЛОВІЧ** Антон Сямёнавіч [12(24).5.1846, в. Коматава, цяпер Гродзенскага р-на — 12(25).12.1908], гісторык, філолаг і публіцыст. Чл.-кар. Пецярбургскай АН (1882). З сям'і уніяцкага святара. Вучыўся ў Віленскай гімназіі, Літоўскай духоўнай семінарыі. Скончыў Пецярбургскі ун-т (1867). З 1875 праф. Нежынскага гіст.-філалагічнага ін-та, з 1881 праф., дэкан гіст.-філалагічнага ін-та, з 1892 рэктар Юр'еўскага (Тартускага) ун-та, з 1901 чл. савета міністэрства нар. асветы. З 1907 рэдактар «Московских ведомостей». Даследаваў стараж. слав. пісьменства, гісторыю, л-ру і мовы слав. народаў. У працы «Першабытныя славяне ў іх мове, быце і ўяўленнях паводле даных лексікальных...» (1878—82, незавершана) упершыню ў рус. славістыцы разглядаў пытанне пра праславянскую матэрыяльную культуру і тэрыторыю. Выступіў ініцыятарам адкрыцця славяназнаўчых кафедраў. Аўтар гіст. прац «Чэхія і Маравія» (1871, разам з А. П. Наранoвічам), «Нарысы з сербскай гісторыі» (1877). Гісторыю праваслаўнай царквы на Беларусі разглядаў у даследаваннях «Гістарычная нататка пра царкоўна-маёмасныя запісы ў Заходняй Расіі» (1871), «Парадак утварэння нерухомай уласнасці царкоўнай у Заходняй Расіі» (1882), «Вопіс-пералік нерухомых маёмасцей заходнярускай царквы [за X—XIX стст.]» (1882). Развіваў тэорыю У. І. Ламанскага пра культ. адзінства ўсяго грэка-слав. свету, як публіцыст і паліт. дзеяч выступаў за аб'яднанне славян пад эгідай Расіі, за ўмацаванне асноў самадзяржаўя і праваслаўя.

*Літ.:* Славяноведение в дореволюционной России: Биобиблиогр. словарь. М., 1979; Булахов М. Г. Восточнославянские языковеды: Биобиблиогр. словарь. Т. 1. Мн., 1976. *А. М. Нечухрын.*

**БУДЗІЛОВІЧ** Ігнат Мартынавіч [1841, Валынская губ.— 28.8(9.9).1863], удзельнік паўстання 1863 на Беларусі. З небагатых дваран. Скончыў Кіеўскі кадэцкі корпус (1859), служыў падпаручнікам у лейб-грэнадзёрскім Екацярынаслаўскім палку (Масква). Належаў да рэв. арг-цыі, падтрымліваў цесныя сувязі з паплечнікам К. Каліноўскага Л. *Звяждоўскім*, пераведзеным увосень 1862 з Вільні ў Маскву. У крас. 1863 уцёк з часці і са Звяждоўскім выехаў на Магілёўшчыну. Пад псеўданімамі Каткоў і Ян Піховіч арганізаваў і ўзначаліў паўстанцкі атрад у Аршанскім пав., з якім рушыў на Бабінавічы і Лёзна. 26.4.1863 яго атрад разбіты пад Пагосцішчамі. Б. схоплены на полі бою і паводле прыгавору ваен. суда расстраляны ў Оршы.

*Літ.:* В. [Ратч]. Очерки мятежного движения в Могилевской губернии в 1863 г. Вильна, 1865; Дьяков В. А. Деятели русского и польского освободительного движения в царской армии 1856—1865 гг.: (Биобиблиогр. словарь). М., 1967; Русско-польские революционные связи. Т. 1. М., 1963 (Восстание 1863 года. Материалы и документы). *Г. В. Кісялёў.*

**БУДЗІНСКІ** (Budzyński) Станіслаў Янавіч (парт. і літ. псеўд. Стах, Традыцыя, С. Бяднарскі, Я. Марыянскі; 9.9.1894, Варшава — 22.8.1937), дзеяч рэвалюцыйнага руху. У 1912—15 член Варшаўскага камітэта СДКПіЛ. З чэрв. 1917 чл. Выканкома груп СДКПіЛ у Расіі, са студз. 1918 чл. ЦВК СДКПіЛ. Удзельнік Кастр. ўзбр. паўстання 1917 у Маскве. Чл. бальшавіцкай фракцыі Маск. Савета. Канд. у чл. Маскоўскага ВРК. У снеж. 1917 — сак. 1918 нарком сац. забеспячэння Масквы і Маскоўскай губ. Са снеж. 1918 у Польшчы, чл. Гал. праўлення СДКПіЛ. Удзельнік Аб'яднаўчага з'езда (1918), на якім утворана Кампартыя Польшчы (КПП). Чл. Лодзінскага, Варшаўскага к-таў КПП. У 1919 арыштаваны. З 1920 у Сав. Расіі па абмену палітзняволенымі, рэдактар газет на польскай мове Ваен.-рэв. савета Зах.

фронту. У 1924—26 чл. Польбюро пры ЦК ВКП(б). У ліп. 1928 на І з'ездзе КПЗБ выбраны чл. ЦК. З 1930 рэдактар газ. «Звязда», чл. рэдкалегіі час. «Бальшавік Беларусі». Адзін з арганізатараў і выкладчык палітэканоміі Камуніст. ун-та Беларусі ў Мінску Чл ЦК у 1929—32, чл. Бюро ЦК КП(б)Б у 1930—32. З 1934 прафесар Міжнар. ленінскай школы ў Маскве. Аўтар грамадска-паліт. брашур і артыкулаў, рэдактар перакладаў на польскую мову твораў У. І. Леніна. У арт. «Вораг у доме» (Полымя. 1929. № 11—12) характарызаваў бел. пісьменніка М. Зарэцкага як «правадыра і пачынальніка антыпралетарскай плыні», «рупара і прылады барацьбы супраць асноўных працоўных мас сялянства». Спрабаваў падвесці ідэалаг. і тэарэтычную аснову пад шырокую паліт. кампанію па выкрыцці т зв. бел. нацдэмаў, якая значна актывізавалася ў канцы 1920-х гадоў і закончылася арыштам вял групы бел грамадскіх, культ дзеячаў, вучоных і пісьменнікаў, акрэсліў формы і сродкі барацьбы з тымі, хто ўнутрана не прымаў прымус і беззаконне, хто імкнуўся праўдзіва, аб'ектыўна ацэньваць — у навук. працы ці праз мастацкае слова — грамадска-паліт., эканамічнае становішча на Беларусі, нац.-культурнае будаўніцтва. У чэрв. 1937 незаконна рэпрэсіраваны. Рэабілітаваны пасмяротна.

*Літ* Мушынскі М І Нескароны талент Праўдзівая гісторыя жыцця і творчасці Міхася Зарэцкага Мн, 1991.

**БУ́ДЗЬКА** Эдзюк (Эдуард Адамавіч; 22.3.1882, мяст Будслаў Віл\u0435йскага пав., цяпер вёска Мядзельскага р-на — 14.8.1958), беларускі паэт, публіцыст, грамадскі дзеяч. Вучыўся ў Рыжскім політэхн. ін-це (спыніў вучобу з прычыны беднасці і па стане здароўя). У Рызе служыў на пошце; арганізаваў бел. нац. згуртаванне. З 1906 друкаваў у газ. «Наша ніва» і яе календарах вершы, вольныя пераклады рус. баек, публіцыстычныя нататкі. У 1916 у Петраградзе ўдзельнічаў у рабоце *Беларускага таварыства ў Петраградзе па аказанні дапамогі пацярпелым ад вайны*, выдаваў газ. *«Светач»*, друкаваўся ў газ. *«Дзянніца»* (арт. «Думкі да граматыкі», 1916, пад псеўд. Акцуб). Удзельнік *З'езда беларускіх нацыянальных арганізацый* (Мінск, сак. 1917), на якім абраны ў *Беларускі нацыянальны камітэт*. Уваходзіў у Петраградскую арг-цыю Беларускай сацыяліст. грамады (БСГ), у чэрв. 1917 на канфер. БСГ выбраны чл. ЦК. Дэлегат *З'езда беларускіх арганізацый і партый* (Мінск, ліп. 1917), *Усебеларускага з'езда 1917*. У 1918 адзін з арганізатараў *Будслаўскай беларускай гімназіі*, у 1921—22 кіраваў бел. настаўніцкімі курсамі ў Дзвінску. Жыў у Рызе і Каўнасе, выступаў з артыкуламі на маральна-этычныя і рэліг. тэмы. У 2-ю сусв. вайну працаваў настаўнікам у Мінску і Баранавічах. Пасля вайны жыў у ФРГ і ЗША, выступаў з успамінамі ў газ. «Бацькаўшчына».

*Г А Каханоўскі*

Э. Будзька.

**БУДЗЬКО́** Уладзімір Дзмітрыевіч (н. 30.12.1927, в. Ліскі Рагачоўскага р-на), беларускі археолаг. Канд. гіст. навук (1962). Скончыў БДУ (1957). З 1961 навук. супрацоўнік, з 1965 заг. сектара археалогіі Ін-та гісторыі АН БССР, з 1970 дацэнт Гомельскага ун-та, з 1973 у Ін-це мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН Беларусі. Даследчык сярэдняга і верхняга палеаліту на тэр. Беларусі і сумежнай тэр. Расіі. Праводзіў раскопкі верхнепалеалітычных стаянак у *Бердыжы*, *Елісеевічах*, *Юдзінаве*, *Юравічах*, стаянак фінальнага палеаліту ў *Падлужжы*, *Грэнску*, *Рудні Споніцкай* і інш., устанавіў іх геалагічны ўзрост (разам з Л. М. Вазнечуком) і адносную старажытнасць, вызначыў месцы гэтых помнікаў сярод аналагічных стаянак Усх. і Цэнтр. Еўропы. Вылучыў самастойную *грэнскую культуру*. Адзін з аўтараў «Нарысаў па археалогіі Беларусі» (ч. 1, 1970), «Гісторыі Беларускай ССР» (т. 1, 1972), «Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі» (т. 1—7, 1984—88).

*Тв* О жилищах Бердыжской палеолитической стоянки // Краткие сообщения Ин-та археологии АН СССР М, 1964 Вып 101; Памятники свидерско-гренской культуры на территории Белоруссии // Материалы и исслед по археологии СССР М, Л, 1966 № 126, Юревичская верхнепалеолитическая стоянка // Белорусские древности Мн, 1967, Археология Белоруссии за советский период (разам з А. Р Мітрафанавым) // Сов археология 1967 № 4

**БУДКЕ́ВІЧ** Барбара Эдмундаўна [20.11(2.12).1886, маёнтак Глухавец Мсціслаўскага пав. Магілёўскай губ.— 21.8.1937], дзеяч рэв. руху ў Польшчы, удзельніца грамадз. вайны на Беларусі, гісторык. Скончыла Брусельскі (Новы) ун-т (1912). Чл. Польскай партыі сацыялістычнай (ППС, 1904—06), Варшаўскага і Лодзінскага к-таў ППС-левіцы (1908—09, 1912—13), замежнай секцыі ППС-левіцы. За ўдзел у рэв. руху двойчы (1906, 1909) арыштавана. З 1913 у Пецярбургу. Пасля Лют. рэв. 1917 працавала ў Польскім нац камісарыяце пры Наркамнацы РСФСР. У 1918—19 кіраўнік польскай секцыі Магілёўскага губ. аддзела нар. асветы, выкладчык на курсах чырв. камандзіраў у Смаленску. У 1920 кіраўнік польскіх палітткурсаў пры штабе Зах. фронту, у 1921—23 сектараў Камуніст. ун-та імя Свярдлова і Камуніст. ун-та нац меншасцей Захаду (КУНМЗ). З 1923 нам. вучонага сакратара Наркамасветы РСФСР, з 1926 выкладчык гісторыі ВКП(б) у Камуніст. ун-це Беларусі З 1931 навук супрацоўнік польскага сектара, вучоны сакратар Ін-та польскай пралетарскай культуры АН БССР, дацэнт кафедры ўсеагульнай гісторыі КУНМЗа. Распрацоўвала гісторыю развіцця прам-сці і фарміравання пралетарыяту, рэв. руху ў Польшчы ў 1870—90 Першая частка яе працы выдадзена ў Мінску ў 1934. Рукапіс 2-й часткі, дзе даследавалася гісторыя ўзнікнення першых сацыяліст. гурткоў і партыі *«Пралетарыят»*, згублены. Беспадстаўна рэпрэсіравана. Рэабілітавана пасмяротна ў 1956.

*Тв* Ruch robotniczy w Królestwie Polskim w latach 1870—1890 Cz 1 Mn, 1934

*Літ* Горяинов А Н Славяноведы — жертвы репрессий 1920—1940-х годов Некоторые неизвестные страницы из истории советской науки // Сов славяноведение 1990 № 2; Księga polaków uczestników Rewolucji Październikowej 1917—1920 Biografie Warszawa, 1967

*У М. Міхнюк*

**БУ́ДНІКІ**, катэгорыя работнікаў на Беларусі ў 15 — сярэдзіне 19 ст., якія працавалі гал. чынам па вольным найме на *будах*. Б. набіралі пераважна са збяднелых сялян, якія парвалі сувязі з сельскай гаспадаркай (*бабылі*, людзі лезныя і інш.). Некваліфікаваныя Б. звычайна выпальвалі попел з драўніны пэўных парод і рыхтавалі дровы ўстаноўленых якасці і памераў (клепку) для будных печаў. Кваліфікаваныя Б. выварвалі з попелу паташ (палівачы і карынікі), выпальвалі вугаль для кузняў, рабілі бочкі пад паташ, выконвалі дапаможныя работы (кавалі, бондары, цагельнікі і інш.). За сваю працу Б. атрымлівалі ардынарый (харчы) і грашовую плату, памеры якіх залежалі ад выпрацоўкі, а таксама адзенне (шапку, рукавіцы) Большасць Б. мела свае хаты, бяздомныя жылі па месцы працы ў спец. памяшканнях.

*В І Мялешка*

**БУ́ДНЫ** Беняш (? — ?), дзеяч бел культуры канца 16 — пач. 17 ст., гуманіст, папулярызатар філасофіі і гісторыі, перакладчык і каментатар твораў ант пісьменнікаў. У 1588 запісаўся ў Кёнігсбергскі ун-т як «Веніямін Будны родам з Літвы». Знаходзіўся пад апекай бел. магната Яна Кішкі Да 1594 жыў пры двары бел. магнатаў Ф. Скуміна і А. Храптовіча, потым на службе ў М. К Радзівіла У 1599 у Любчанскай друкарні выдаў «Кароткія і ясныя апавесці, якія па-грэчаску называюцца Апафегматы» (у 17 ст. перавыдадзены 11 разоў). На аснове інтэрпрэтацыі твораў ант. філасофаў, гісторыкаў, паэтаў развівае свае ідэі. Адна з асаблівасцей яго філас. інтэрпрэтацыі — спроба хрысціянізацыі антычнай этыкі У сваіх прадмовах падкрэсліваў важнасць засваення антычнай філасофска-

культ. спадчыны, абгрунтоўваў ідэі натуральнай маралі і натуральнага права, сцвярджаў прэстыж філасофіі, яе незалежнасць ад багаслоўя і рэлігіі. Маральна-этычныя нормы выводзіў з разумна-прыроднай сутнасці чалавека, яго індывідуальнага і грамадскага вопыту; сцвярджаў самакаштоўнасць чалавечага жыцця, годнасць чалавека, яго духоўную свабоду, нац. і сац. роўнасць. Яго філасофска-этычныя погляды рэнесансава-гуманістычныя з выразна акрэсленымі антыфеад. і антыцарк. тэндэнцыямі. Творчасць Б. адыграла прагрэс. ролю ў развіцці гуманіст. філасофска-этычнай думкі Беларусі. Аднак гуманізм яго этыкі абмежаваны феад.-класавым светапоглядам. У творах высока ставіў навуку і адукацыю, выкрываў заганы феад. ладу, але быў далёкі ад ідэі яго сац. перабудовы. Б. належаць пераклады трактатаў Цыцэрона «Аб старасці» (1596), «Аб дружбе» (1603). Творы Б., западозранага ў арыянстве, знішчаліся царквой.

*Літ.:* Анушкин А. На заре книгопечатания в Литве. Вильнюс, 1970; Идеи гуманизма в общественно-политической и философской мысли Белоруссии (дооктябрьский период). Мн., 1977; Порецкий Я., Пренская Ю. «Апофегматы» Беняша Будного // Неман. 1970. № 11; Державина О. А. Фацеции: Переводная новелла в русской литературе XVII в. М., 1962. *Я. І. Парэцкі.*

**БУДНЫ** Сымон (каля 1530, в. Буды ў Мазовіі, Польшча — 13.1.1593), беларускі гуманіст, асветнік, рэліг. рэфарматар, філосаф, сацыёлаг, гісторык. З сям'і дробнага шляхціца. Скончыў ф-т вольных мастацтваў Кракаўскага ун-та (паступіў у 1544), магчыма, і тэхналагічны ф-т Базельскага ун-та. З 1558 выкладаў на бел. мове катэхізіс у пратэстанцкай школе ў Вільні. З 1560 кальвініцкі прапаведнік у Клецку. Адзін з ініцыятараў (з Л. Крышкоўскім і М. Кавячынскім) заснавання *Нясвіжскай друкарні*, дзе выдаў на бел. мове «Катэхізіс» (1562), «Пра апраўданне грэшнага чалавека перад богам» і інш. творы. Незадаволены памяркоўнасцю кальвінізму, перайшоў на больш радыкальныя рэфармацыйныя пазіцыі антытрынітарызму. У 1563 у лісце да швейцарскага тэолага Г. Булінгера выказаў сумненне ў праўдзівасці хрысціянскага догмату тройцы. У сярэдзіне 1560-х гадоў вёў пісьмовую палеміку з рус. праваслаўным багасловам Арцеміем, устанавіў сяброўскія кантакты з друкарамі І. *Фёдаравым* і П. *Мсціслаўцам*. У 1564 разам з Крышкоўскім пераклаў на польскую мову і выдаў у Нясвіжы «Гутаркі святога Юсціна, філосафа і пакутніка, з Трыфанам іудзеем». У 1572 выдаў Біблію, аднак яго каментарыі і заўвагі да яе не былі змешчаны выдаўцамі. У 1574 у Лоску (каля Валожына) выдаў Новы Запавет з прадмовай, каментарыямі і заўвагамі, якія з'явіліся першай у сусв. л-ры спробай радыкальнай рацыяналістычнай крытыкі евангельскіх кніг. У тым самым годзе ў лісце да англійскага гісторыка Дж. Фокса выступіў супраць царк. догмату пра боскую прыроду Хрыста. У 1576 выдаў твор «Пра найважнейшыя палажэнні хрысціянскай веры», у якім абагульніў свае рэліг.-філасофскія погляды. Як ідэолаг бел. радыкальна-рэфармацыйнага руху ўдзельнічаў у рабоце арыянскіх сінодаў. Палемізаваў па рэліг. і сац. пытаннях з ідэолагамі арыянскай «лявіцы» Пятром з Ганёндза, Якубам з Калінаўкі, М. Чаховіцам. У творы «Пра свецкую ўладу» (1583) апісаў гісторыю сваіх сац. і рэліг.-філасофскіх рознагалоссяў з «левымі» пра адносіны да феад. грамадства і дзяржавы, за што ў 1584 выключаны з брацкай абшчыны, але ў канцы 1580-х гадоў ва ўмовах наступлення контррэфармацыі пайшоў на прымірэнне з «левымі». У 1589 у Полацку палемізаваў з езуіцкімі тэолагамі, абвяргаў догмат пра бессмяротнасць душы.

Помнік С. Будному ў Нясвіжы.

Самым надзейным аўтарытэтам у справах веры і пазнання Б. лічыў Біблію. Крытэрый біблейскай ісціны — індывідуальны розум і сац.-прыродны вопыт чалавека. Рацыяналістычна-натуралістычна трактаваў паняцці замагільнага свету і пасмяротнай узнагароды, боскую тройцу, біблейскія цуды і інш. Матэрыяльную субстанцыю лічыў першаснай адносна духоўнай. Высока цаніў культурна-філасофскую спадчыну антычнага свету. Яго рацыяналістычнае вучэнне падрыхтавала глебу для развіцця на Беларусі атэіст. і матэрыяліст. думкі. Творы Б. садзейнічалі фарміраванню рус. вальнадумства. Ён быў ідэолагам прагрэсіўна настроенай бел. шляхты і гараджан. Апраўдваючы тагачасныя грамадскія і дзярж. асновы, і менавіта прыгонніцтва, ён патрабаваў абмежавання феад. самавольства, указваў на неабходнасць пэўных змен і рэформ у жыцці грамадства і дзярж. структуры, крытыкаваў беззаконне, захопніцкія войны, быў заступнікам верацярпімасці і інтэлектуальнай свабоды. Выступаў за роўнасць усіх саслоўяў перад законам і справядлівасць правасуддзя. Яго паліт. ідэалам была адукаваная манархія, абмежаваная саслоўным прадстаўніцтвам і законам. Асуджаў агрэсіўную палітыку феадалаў, лічыў, што для простага народа, развіцця рамяства і гандлю, распаўсюджвання асветы патрэбен мір, што феадалы, багатыя гараджане павінны клапаціцца пра адукацыю простага народа і не шкадаваць сродкаў на будаванне школ. Сцвярджаў нац. годнасць славян, у т. л. беларусаў, адзначаў іх багатыя і разнастайныя духоўныя традыцыі, неабходнасць развіцця бел. культуры на роднай мове. Яго ідэі пра развіццё бел. мовы, культуры былі адным з фактараў станаўлення нац. свядомасці. Б. быў таленавітым літаратарам (пісаў на бел., польскай, лац. мовах), празаікам і паэтам, вучоным-філолагам, перакладчыкам, усведамляў вял. ролю свабоды ў творчасці, з'яўляўся папярэднікам рацыяналістычнага кірунку ў эстэтыцы. Яго эстэт. поглядам уласцівы рыгарызм. Адзін з самых адукаваных філолагаў-гуманістаў свайго часу, ён зрабіў вял. уклад у развіццё бел. мовы, выступаў за ўсебаковае супрацоўніцтва ўсіх слав. народаў. Памёр у Вішневе (цяпер Валожынскі р-н). У Нясвіжы яму пастаўлены помнік.

*Тв.:* Катихисис то ест наука стародавная христианьская от светого писма для простых людей языка руского, в пытаниах и отказех събрана. Несвиж, 1562; Из предисловия к переводу Нового завета. Приписки к переводу некоторых мест Нового завета. Из письма к Фоксу // Из истории философской и общественно-политической мысли Белоруссии. Мн., 1962; O urzędzie miecza używającem. Warszawa, 1932; O przedniejszych wiary chrystyjańskiej artykulech, 1576 // Literatura ariańska w Polsce XVI w.: Antologia. Warszawa, 1959.

*Літ.:* Алексютович Н. А. Будный — идеолог гуманизма и реформации в Белоруссии и Литве // Из истории философской и общественно-политической мысли Белоруссии. Мн., 1962; Парэцкі Я. І. Сымон Будны. Мн., 1975; Подокшин С. А. Реформация и общественная мысль Белоруссии и Литвы: (Вторая половина XVI — начало XVII в.). Мн., 1970.

**БУДСЛАЎ**, вёска ў Мядзельскім р-не, на р. Сэрвач. Цэнтр сельсавета і саўгаса «Будслаўскі». За 56 км на У ад г. п. Мядзел, 2 км ад чыг. ст. Будслаў. 300 двароў, 700 ж. (на 1.1.1990).

Назва вёскі (Буда, Буцлаў, Будцлаў) паходзіць ад слав. прозвішча Будслаў (сэнсавае значэнне асновы — майстар-будаўнік). Паводле легенды, з даўніх часоў наз. Слаўнай Будай, або Будславам. У гіст. крыніцах ВКЛ упамінаецца пад 1504, калі вял. князь Аляксандр падараваў гэту мясцовасць віленскім манахам-бернардзінцам, якія тут мелі драўляную капліцу. У 1560 яны пакінулі Б., у 1589 вярнуліся сюды і пабудавалі драўляны касцёл. Мінскі ваявода Ян Пац ахвяраваў бернардзінцам абраз св. Багародзіцы, які яму ў Рыме падараваў папа Клімент VIII. У 1643 бер-

нардзінцы замест драўлянага касцёла пабудавалі мураваны. У 1783 у Б. ўзведзены новы мураваны касцёл, пры якім знаходзіліся кляштар бернардзінцаў і 2 капліцы. Паводле прывілея Аўгуста III ад 6.10.1732 Б.— мястэчка. З 1793 у складзе Расійскай імперыі, мястэчка Вілейскага пав. Паводле інвентара 1848, маёнтак Б.— прыватнае ўладанне І. І. Аскеркі — складаўся з мястэчка (244 ж., 46 двароў), 4 вёсак, 3 засценкаў, 1 фальварка. Існавалі праваслаўная царква, сядзіба з гасп. будынкамі (пральня, стайні, двары для жывёлы, млын, бровар, кузня, малатарня, магазін). У маёнтку выраблялі льняное палатно і цэглу. У мястэчку былі млын, карчма, сукнавальня. За ўдзел у паўстанні 1863—64 у Б. ў 1864 прыпынена дзейнасць касцёла, закрыты кляштар. У 1868 у Б. 259 ж., 48 двароў. У 1885 Б.— цэнтр воласці Вілейскага пав.; 327 ж., 50 двароў, валаснос праўленне, касцёл, сінагога, прыходскае вучылішча (у 1892/93 навуч. годзе аучыліся 65 хлопчыкаў, 5 дзяўчынак), крама, таржок. Каля мястэчка знаходзіўся маёнтак, дзе працавалі бровар (заснаваны ў 1848, з 1862 меў паравую машыну; у 1900—9 рабочых), сукнавальня, вадзяны млын, крама, пастаялы двор, 2 карчмы. У 1904 у мястэчку 578 ж., у маёнтку 54; у 1907—435 ж., 61 двор. У 1907 каля Б. прайшла чыг. Полацк — Маладзечна, пабудавана чыг. станцыя. У 1-ю сусв. вайну ў сак. 1916 тут размяшчаўся штаб 2-й рус. арміі Зах. фронту, якая выконвала асн. задачы ў *Нарачанскай аперацыі 1916*. Пасля Лют. рэв. 1917 створаны валасны Савет рабочых, сял. і салдацкіх дэпутатаў. У лют.— снеж. 1918 акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі. 10.12.1918 агульны сход рабочай моладзі мястэчка пастанавіў арганізаваць камуніст. ячэйку і аднавіць у павеце Сав. ўладу. У жн. 1919 за 20 вёрст на ПнЗ ад Б. атрады Чырв. Арміі вялі баі з польскімі войскамі. У 1919 у Б. 790 жыхароў. У 1919—20 працавала *Будслаўская беларуская гімназія* (закрыта польскай акупац. адміністрацыяй). З 18.3.1921 мястэчка Б. (116 двароў, 626 ж.) у складзе Зах. Беларусі ўвайшло ў Польшчу; цэнтр гміны Вілейскага (да 1925 Дунілавіцкага) пав. Віленскага ваяв. Існавалі гмінная ўправа, млын, лесапільня, аптэка, банк, касцёл, таргі па панядзелках, карчма. Фальварак Б. (б. маёнтак) налічваў *5* двароў, *55* жыхароў. З вер. 1939 Б. у складзе БССР, з 12.10.1940 цэнтр сельсавета Крывіцкага р-на, з 25.12.1962 у Мядзельскім р-не. У Вял. Айч. вайну у ліп. 1941 акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія ў вер. 1942 расстралялі тут 270 жыхароў. Вызвалены 2.7.1944 воінамі 277-й стралк. дывізіі і 7-й механізаванай брыгады 3-га Бел. фронту ў ходзе *Мінскай аперацыі 1944* разам з партызанамі брыгад імя Ракасоўскага і імя Будзённага. З 1944 адноўлена Будслаўская МТС (арганізавана ў 1940). З 27.5.1950 выдавалася газ. «Калгасны шлях». У 1949 створаны калгас імя Энгельса. З 1965 Б.— цэнтр саўгаса «Будслаўскі»; у 1970 — 859 ж., 318 двароў. У вёсцы Дом культуры, сярэдняя і муз. школы, 2 б-кі, амбулаторыя, аптэка, ашчадны банк, аддз. сувязі, пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, дзіцячы сад, 5 магазінаў. Брацкая магіла сав. воінаў і партызана, магілы ахвяр фашызму, сав. воіна М. В. Байцарава, засл. дзеяча бел. культуры П. В. *Мядзёлкі*; помнік землякам, што загінулі ў Вял. Айч. вайну. Помнікі архітэктуры: касцёл бернардзінцаў 2-й пал. 18 ст. і плябанія 18 ст. Б.— радзіма дзярж. дзеяча БССР І. А. Васілевіча, бел. спевака, арганіста і кампазітара І. Глінскага, П. В. Мядзёлкі. Каля вёскі часткова захаваўся парк, закладзены ў 1907.

*Літ.:* Гошкевич И. И. Виленская губерния. Вильна, 1905; Городские поселения в Российской империи. Т. 1. Спб., 1860; Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами Генерального штаба. Виленская губерния. Спб., 1861; Волости и важнейшие селения Европейской России. Вып. 5. Спб., 1886; Памятная книжка Виленской дирекции народных училищ за 1892—93 учебный год. Вильна, 1892; Studnicki W. Zarys statystyczno-ekonomiczny ziem Północno-Wschodnich. Wilno, 1922. *В. М. Князева.*

**БУДСЛАЎСКАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГІМНАЗІЯ,** сярэдняя агульнаадукацыйная навуч. ўстанова ў мяст. *Будслаў* Вілейскага пав. (цяпер Мядзельскі р-н). Заснавана па ініцыятыве дзеячаў бел. нац.-вызваленчага руху І. І. *Васілевіча* і Э. А. *Будзькі* ў канцы 1917 (афіцыйна адкрыта ў студз. 1918) на базе бел. пачатковай школы, што працавала з сак. 1917. Дырэктар Васілевіч. У 1918/19 навуч. годзе функцыяніравала 1-я ступень гімназіі (2 падрыхтоўчыя, 2 першыя, 2-і, 3-і і 4-ы класы). Навучалася больш за 300 сял. дзяцей абодвух полаў. Выкладанне вялося на бел. мове. Пры гімназіі дзейнічаў вучнёўскі кааператыў. Вясной 1918 Народны сакратарыят Беларусі выдзеліў фінансавыя сродкі на будынак для гімназіі, якая часова размяшчалася ў арандаваным памяшканні. Архітэктар Л. І. *Дубейкаўскі* распрацаваў праект у традыцыях нац. дойлідства, і летам 1918 пачалося будаўніцтва. Мясцовыя спаланізаваныя памешчыкі разгарнулі кампанію супраць гімназіі. Перад пачаткам 1919/20 навуч. года яна была забаронена польскай акупац. адміністрацыяй. Супраць гвалтоўнага закрыцця гімназіі выступалі 500 жыхароў Будслаўскай гміны. Іх пратэст быў падтрыманы *Цэнтральнай беларускай радай Віленшчыны і Гродзеншчыны* і прэсай, але пакінуты ўладамі без увагі. *С. С. Рудовіч*

**БУДСЛАЎСКІ КЛЯШТАР БЕРНАРДЗІНЦАЎ.** Існаваў у 16—1-й пал. 19 ст. ў в. Будслаў Мядзельскага р-на. Упершыню ўпамінаецца ў пісьмовых крыніцах пад 1504, калі вял. кн. Аляксандр даў віленскім бернардзінцам 6000 маргоў лесу ў Мінскім пав. для нарыхтоўкі дроў. Манахі Б. к. б. жылі па 2—4 чалавекі ў шалашах («будах»), мелі капліцу. У 1591 пабудаваны драўляны касцёл Наведання Марыяй Елізаветы, у якім знаходзіўся цудатворны абраз Маці Боскай, прывезены ў 1598 Я. Пацам з Рыма (дар папы Клімента VIII) і ў 1613 перададзены ў касцёл капеланам І. Салакаем. У 1650 Э. Зеляевіч выдаў кнігу

Да арт. Будслаў. Касцел бернардзінцаў. Алтар «Ушэсце Марыі». 17 ст

цудаў абраза, зрабіў з яго гравюры, якія пазней выдадзены ў Будславе. У 1643 пабудаваны новы касцел (фундатар гетман польны літоўскі ваявода полацкі Я. Кішка). Цудатворны абраз знаходзіўся ў цэнтры драўлянага разного алтара. У 1750 пабудаваны жылы корпус кляштара. 29.6.1767 закладзены новы касцел (3-нефавая безапсідная 2-вежавая базіліка з трансептам), у яго аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю ўвайшоў як бакавая капліца касцел св. Варвары, пабудаваны ў 1643. У 1783 касцел асвячоны ў гонар свята Успення Маці Боскай. На працягу 2-й пал. 18 ст прыбудоўвалі розныя кляштарныя будынкі. Фундатары кляштара Ю. Карахоўскі, ваявода Агінскі, А. Гутаровіч, А. Укольскі, Б. Скарульская (пералічыла 2 тыс. злотых на арганы, пазней яшчэ 44 тыс. злотых). Парафія ўпершыню ўпамінаецца ў 1788. У 1793—1842 пры кляштары працавала 2-класная школа (да 25 вучняў), шпіталь. З 1756 працавала муз. школа (каля 15 вучняў, па фундацыі Б. Скарульскай). У 1731—97 у духоўнай школе Б. к б. 7—10 слухачоў, вывучалі тэалогію маральную і рыторыку. Колькасць манахаў 4—17. Пасля закрыцця кляштара (1852) некаторыя з манахаў (Г. Т. Вольскі, Манстовіч, П. Багдановіч, Загорскі, Маркевіч) прымалі ўдзел у паўстанні 1863—64 Касцёл захаваўся як парафіяльны. Побач з ім стаіць будынак плябаніі 19 ст. *А А Ярашэвіч*

**БУЕ́ВІЧЫ**, шляхецкі род герба «Нязгода», прадстаўнікі якога мелі ўладанні ў Віцебскім пав. Паходзіць ад Івана Амбая Буевіча, чацвера сыноў якога падзялілі ў 1506 бацькоўскі маентак Выжляшчына (сучасная в. Ужляшчына Шумілінскага р-на). У далейшым іх нашчадкі сумесна валодалі гэтым маенткам (у адным з дакументаў за 1628 іх названа 11 чал.). Род Б. існаваў на Віцебшчыне ў пач. 20 ст

*Літ*. Гербовник витебского дворянства // Heraldica Ист сб Спб 1900 Т 1 С 143 *В Л Насевіч*

**БУЖА́НЕ**, назва ўсходне-славянскага народа, які ў 6—9 ст. засяляў басейн Зах Буга Іх суседзямі на Пд былі валыняне, на З — мазаўшане. Аселыя, займаліся земляробствам, жывелагадоўляй, бортніцтвам, рамествамі. Упамінаюцца ў «Аповесці мінулых часоў». На думку славацкага гісторыка П. І. Шафарыка, у 5 ст. да н. э. называліся будзінамі, у першыя ст. н э.— сербамі (беласербамі) Паводле звестак географа Баварскага (канец 9 ст ), мелі 231 «горад» (замак). З 10 ст. Б. ў складзе Кіеўскай Русі. З 12 ст жыхароў зямель Пабужжа называлі па гал. гарадах княстваў — дарагічынцы, берасцейцы і г д З 13 ст распаўсюджваецца новая назва гэтых зямель — Падляшша. У л-ры 19 ст. Б. зрэдку атаясамліваюць з *валынянамі, палешукамі*.

*Літ*. Шафарик П И Славянские древности Пер с чеш Т 1—2 2 изд М, 1848, Третьяков П Н Восточно-славянские племена 2 изд М, 1953

*І А Юхо*

П А Бузук.

**БУЖЫ́НСКІ** Станіслаў Антоні [? — 1765 (?)], дзяржаўны дзеяч Рэчы Паспалітай, сенатар, юрыст. З 1731 інстыгатар (пракурор) ВКЛ, з 1750 кашталян брэсцкі, з 1752 кашталян смаленскі. Некалькі разоў выбіраўся дэпутатам у сейм, з 1740 рыхтаваў яго пастановы. Сабраў для апублікавання найважнейшыя пастановы сеймаў Рэчы Паспалітай, з пач. дзейнасці да сярэдзіны 18 ст. (выдадзены ў 1765 яго сынам Т. *Бужынскім*).

**БУЖЫ́НСКІ** Тадэвуш (? — 1773), дзяржаўны дзеяч і дыпламат Рэчы Паспалітай, сын С А. *Бужынскага*. Староста краснасельскі і ротмістр войска ВКЛ, з 1763 кашталян смаленскі, з 1769 ваявода мінскі. Удзельнічаў у падрыхтоўцы пастаноў сейма 1767—68, якія расшыралі правы праваслаўнай і пратэстанцкай шляхты, спрыялі ўмацаванню ўлады караля. У 1765 выдаў падрыхтаваныя бацькам найважнейшыя пастановы сеймаў Рэчы Паспалітай Садзейнічаў паляпшэнню ўзаемаадносін Рэчы Паспалітай з Расіяй, у 1769—73 пасол Рэчы Паспалітай у Галандыі і Англіі

**БУЗДЫГА́Н** (турэцкае bozdogan палка), старажытная ўдарная зброя (15—16 ст.), сімвал ваен улады *і* парадная зброя (17—18 ст.). Складаўся з драўлянага (часта пакрытага бляхай з інкрустацыяй ці інш. аздобай) або суцэльнаметалічнага дзяржання і ўдарнай часткі — наверша. Апошняе мела выгляд металічных пёраў колькасцю ад 6 (адсюль другая назва шастапер) да 20 рознай канфігурацыі, што прамянямі адыходзілі ад наверша. Яны былі шырэйшыя ўверсе і вузейшыя ўнізе, іх аздаблялі насечкамі, серабрылі або залацілі Агульная даўж 50—60 см. Часта ўнутр дзяржання быў уманціраваны стылет. У ВКЛ і Рэчы Паспалітай Б. з'яўляўся афіцэрскай адзнакай, яго насілі палкоўнікі, ротмістры, харунжыя, паручнікі. На Беларусі Б. выраблялі для ўнутр. патрэб і на экспарт. Паводле гіст. крыніц, у 1675 быхаўскія майстры-збройнікі рабілі пазалочаныя Б. і прадавалі іх у Маскву па 5 руб. за штуку З дакументаў 16—17 ст. багата аздобленыя Б. вядомы ў складзе нясвіжскай зброеўні. Просты Б. захоўваецца ў Брэсцкім абл краязнаўчым музеі. *М А Ткачоў*

**БУЗУ́К** Петр Апанасавіч [2(14) 7 1891, в. Цярноўка, Малдавія — 7.2.1938], беларускі мовазнавец-славіст, літаратуразнавец. Д-р філал. навук (1924), праф (1925) Скончыў Наваросійскі ун-т у Адэсе (1916), з 1920 дацэнт гэтага ун-та, выкладаў таксама ў Ін-це народнай асветы ў Адэсе. Па запрашэнні рэктара БДУ У. І. Пічэты з восені 1925 у Мінску чытаў лекцыі ва універсітэце. З 1926 заг. дыялекталагічнай камісіі Інбелкульта (з 1929 АН БССР) 6.8 1930 арыштаваны па абвінавачанні ў нацыянал-дэмакратызме і прыналежнасці да «Саюза вызвалення Беларусі», праз некалькі месяцаў вызвалены. З 1931 дырэктар, з ліп. 1933 вучоны спецыяліст Ін-та мовазнаўства АН БССР і заг. кафедры мовазнаўства Бел. вышэйшага пед ін-та 9.2.1934 арыштаваны паўторна па абвінавачанні ў сувязі з бел. нацыянал-дэмакратамі і за ўдзел у т. зв. арг-цыі «Расійская нацыянальная партыя», сасланы на 3 гады ў Волагду, дзе працаваў бібліятэкарам, выкладаў ням мову ў пед ін-це 15 7.1937 зноў арыштаваны і асуджаны да вышэйшай меры пакарання па абвінавачанні ў прыналежнасці да нітысав арг-цыі Расстраляны ў Волагдзе Рэабілітаваны пасмяротна ў 1956 Вывучаў праблемы праславянскай мовы і ўтварэння на яе аснове асобных моўных груп («Погляды акадэміка Шахматава на дагістарычныя лёсы славянства», 1918—21, «Становішча беларускай мовы сярод іншых славянскіх моваў», 1927), пытанні агульнага і параўнальнагіст. мовазнаўства («Асноўныя пытанні мовазнаўства», 1926). Даследаваў мову помнікаў стараж.-сербскай пісьменнасці, узаемасувязі паміж укр. і бел мовамі («Узаемаадносіны паміж украінскай і беларускай мовамі», 1926) Вывучаў бел. дыялекталогію, заснаваў бел. лінгвістычную геаграфію. Разам з С. Некрашэвічам склаў «Праграму для збірання асаблівасцей беларускіх гаворак і гаворак, пераходных да суседніх моў» (1927). Склаў першы ў славянскім мовазнаўстве дыялекталагічны атлас бел мовы «Спроба лінгвістычнай геаграфіі Беларусі» (1928). Даследаваў пытанні культуры бел. літ. мовы, творчасць і асаблівасці мовы твораў Ф. Багушэвіча, Ц. Гартнага, М. Гарэцкага, М. Зарэцкага, Я. Коласа, Я Купалы, Я. Чачота і інш. Пад псеўд. П Росіч выступаў у друку з вершамі і апавяданнямі, перакладаў на бел. мову з ням, іспанскай, малдаўскай і інш. моў

*Літ* Рамановіч Я, Юрэвіч А П А Бузук Мн, 1969 *Н У Васілеўская*

**БУЙКО́** Аляксандр Міхайлавіч (1885, в Астраўляны Дзісенскага пав. Віленскай губ, цяпер Шаркоўшчынскі р-н — 30.1 1941), прафесійны рэвалюцыянер У 1904 уступіў у РСДРП. Удзельнік рэвалюцыі 1905—07 З 1906 чл. Пецярбургскага к-та РСДРП, у 1907—09 чл. яго выканаўчай камісіі Удзельнік V Усерасійскай парт. канфер (Парыж, 1908). У сак. 1909 арыштаваны і сасланы на вечнае пасяленне ў Сібір Пасля Лют рэв. 1917 нам. старшыні Верхнеудзінскага (з 1934 Улан-Удэ) Савета Са студз 1918 старшыня Рэўтрыбунала Прыбайкалля. Пасля захопу Забайкалля белагвардзейцамі эмігрыраваў у Манголію, потым у Кітай. Адзін з кіраўнікоў разгрому войск Унгерна У 1921 эмісар Далекаўсходняй Рэспублікі ў Прыбайкаллі, сакратар Далекаўсх Бюро ЦК РКП(б). З 1922 старшыня Нар. сходу Далекаўсходняй Рэспублікі, пазней нам наркома гандлю РСФСР. У 1933—41 нам. гал. арбітра РСФСР Аўтар кн. «Шлях рабочага» (1934).

**БУЙКО́** Петр Міхайлавіч (31 10 1895, г. Бельск-Падляскі, цяпер Беластоцкага ваяв. Польшчы — 15 10.1943), Герой Сав. Саюза (1944). Д-р медыцынскіх навук, праф. (1938). Беларус. Скончыў Кіеўскі медыцынскі ін-т (1922). У 1918 удзельнічаў у студзеньскім узбр паўстанні супраць Цэнтр рады ў Кіеве Удзельнік вызвалення Зах Украіны ў 1939 У Вял. Айч. вайну на фронце з 1941 — вядучы хірург медыцынска-санітарнага батальёна. У баях пад г. Умань Чаркаскай вобл. быў паранены, трапіў у палон, уцек. З лют. 1942 працаваў у бальніцы г. Фастаў Кіеўскай вобл., адзін са стваральнікаў падп. партыйнай арг-цыі і партыз. груп у Фастаўскім р-не. З ліп. 1943 урач партыз атрада 13.10.1943 у час бою схоплены гітлераўцамі і пасля катаванняў спалены жывым разам з інш. партызанамі-заложнікамі. Пахаваны ў с. Тамашоўка Фастаўскага р-на, на магіле — помнік. Яго імя прысвоена Кіеўскаму НДІ педыятрыі, акушэрства і гінекалогіі, дырэктарам якога быў з 1933, яго імем названа вуліца ў Кіеве.

**БУЙНЕ́ВІЧ** Павел Мікалаевіч [н 15(28).10.1912, в. Новыя Грамыкі Гомельскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Веткаўскі р-н], Герой Сав. Саюза (1945). Працаваў трактарыстам у калгасе. У Чырв. Арміі ў 1934—40 і з 1941 Удзельнік вызвалення Зах. Беларусі ў 1939, сав.-фінляндскай вайны 1939—40. У Вял. Айч. вайну летам 1941 у складзе зенітнага дывізіёна абараняў Гомель, потым у партыз атрадзе, які ўвосень 1943 злучыўся з Чырв. Арміяй. З ліст. 1943 на фронце. Камандзір гарматы сяржант Б вызначыўся ў час прарыву абароны ворага на правым беразе Віслы ў студз. 1945. Яго разлік знішчыў 8 варожых агнявых пунктаў, 10 станковых кулямётаў, каля 45 гітлераўцаў. Пасля вайны працаваў старшыней калгаса ў Гомельскай вобл У 1948—67 служыў у Сав. Арміі.

П М Буйко.

Памятны знак К Сіманаву на Буйніцкім полі

**БУ́ЙНІЦКАЕ ПО́ЛЕ,** месца значных гіст. падзей каля в Буйнічы Магілёўскага р-на. У час антыфеад. сялянска-казацкага паўстання ў 1595 тут адбыўся бой паміж казацка-сялянскім атрадам С. Налівайкі і войскам ВКЛ. У снеж. 1595 атрад Налівайкі авалодаў Магілевам. Феадалы ВКЛ сабралі 18-тысячнае войска на чале з рэчыцкім старостам М. Буйвідам. 2 тыс. паўстанцаў, узброеных 20 гарматамі і ружжамі, прынялі бой на Б. п. і на працягу дня адбівалі атакі ворага З-за недахопу сіл казакі адступілі да Быхава. У Вял. Айч. вайну Б п. стала месцам жорсткіх баёў сав. воінаў 172-й стралк. дывізіі (ген.-м. М. Ц. Раманаў) і магілёўскіх апалчэнцаў з ням.-фаш. захопнікамі ў час *Магілева абароны 1941* Рубеж Цішоўка — Буйнічы — Сялец, перакрываючы аўтадарогу Магілёў — Бабруйск і чыг. Магілёў — Жлобін, абаранялі воіны 388-га стралк. палка (палк. С. Ф. Куцепаў), 340-га летнага артыл. палка (палк. І. С. Мазалаў) 172-й стралк дывізіі і батальен нар. апалчэння (камісар П. Е. Цярэнцьеў). Ням. камандаванне, плануючы прарвацца ў Магілёў з ПдЗ (з боку Бабруйска), сканцэнтравала на гэтым напрамку 3-ю танкавую дывізію, пях. часці, якія падтрымліваліся артылерыяй і авіяцыяй. Найбольш цяжкія баі разгарнуліся на Б. п., дзе праходзіў пярэдні край абароны. З 10 ліп праціўнік сістэматычна вёў масіраваную бамбардзіроўку і артыл. абстрэл пазіцый 388-га палка, 12 ліп сав. артылерыя, апярэдзіўшы атаку праціўніка, агнём па скопішчы танкаў нанесла ворагу значныя страты. Перайшоўшы ў наступленне, праціўнік накіраваў на сав пазіцыі праз Б п. 170 танкаў. Бой працягваўся 14 гадзін. Сав воіны адбілі некалькі атак праціўніка, знішчылі (выкарыстоўваючы бутэлькі з гаручай су месссю) 39 танкаў. 13 ліп гітлераўцы ўварваліся на пазіцыі 3-га батальёна, але воіны палка адстаялі рубеж абароны І ў наступныя дні баі былі вельмі жорсткія. Свае пазіцыі сав. воіны ўтрымлівалі да 22 ліпеня.

13—14 ліп. на Б. п. знаходзіўся карэспандэнт газ. «Известия» К. Сіманаў Падзеі гераічнай абароны Магілева і бітвы на Б п адлюстраваны ў яго рамане «Жывыя і мертвыя» і дзенніку «Розныя дні вайны» Паводле завяшчання Сіманава, яго прах развеяны над Б п На месцы баеў пастаўлены помнік у гонар воінаў 388-га стралк палка; на ўшанаванне памяці К. Сіманава — мемарыяльны знак

*Літ* Солдатами были все 2 изд Мн 1972, Симонов К Разные дни войны Дневник писателя // Собр соч М, 1982 Т 8 *В С Павалихіна*

**БУЙНІ́ЦКІ** Ігнат Цярэнцьевіч [10(22) 8 1861, фальварак Палевачы Дзісенскага пав. (цяпер Глыбоцкі р-н) — 9(22) 9 1917], беларускі акцёр, рэжысёр, тэатральны дзеяч, пачынальнік бел нацыянальнага прафес тэатра Са шляхецкай сям'і. Скончыў Рыжскае каморніцкае вучылішча, вучыўся ў прыватнай драматычнай студыі ў Вільні. Працаваў каморнікам, вёў гаспадарку ў Палевачах, што дало яму магчымасць мець пэўную матэрыяльную базу для стварэння тэатра. З дзяцінства жывучы сярод простых людзей, Б. шчыра іх палюбіў, глыбока ўспрымаў усе радасці і нягоды іх жыцця, багаты духоўны свет. Гэта вызначыла прафесію Б., які вырашыў сродкамі мастацтва садзейнічаць сцвярджэнню чалавечай і нац. годнасці свайго народа, развіццю яго культуры Б быў носьбітам перадавых настрояў, імкнуўся як мага паўней пазнаць нар. жыццё Вывучаў бел. песні і танцы, збіраў узоры нар. адзення, арнаменту, размалёўкі Паводле сведчання Ч. Родзевіча, «рабіў сваю працу Ігнат Буйніцкі не дзеля гонару, не дзеля славы, а рабіў гэта дзеля таго, што любіў мужыка, рабочага, любіў яго загнаную, забітую культуру і звычаі, ён хварэў, мучыўся цемрай народа беларускага, якую сеяў царызм, хварэў тым здзекам, які ўчыняў пан, чыноўнік, аднак Буйніцкі, нягледзячы на перашкоды, ішоў у народ і сеяў насенне культуры і асветы» (Заря Запада 1926. 21 нояб.). З 1905 Б. сістэматычна праводзіў у Палевачах і Празароках вечарынкі самадзейных танцораў, спевакоў, дэкламатараў, музыкаў; паказваліся і драматычныя сцэнкі з нар. жыцця

Паступова вакол Б. арганізавалася група аматараў сцэны, якая на працягу 1907 ператварылася ва ўстойлівы аматарскі тэатр. Яго ўдзельнікі часта выступалі перад мясц. жыхарамі. 12.2.1910 яны прынялі ўдзел у Першай бел. вечарынцы ў Вільні (гл. ў арт *Беларускі музычна-драматычны гурток*). Папоўненая таленавітымі драматычнымі акцёрамі, спявакамі трупа стала прафесійнай і атрымала назву *Першая беларуская трупа Ігната Буйніцкага*. У яе рэпертуары былі песні, танцы, пастаноўкі п'ес «Па рэвізіі» і «Пашыліся ў дурні» М. Крапіўніцкага, «У зімовы вечар» паводле Э. Ажэшкі, «Міхалка» Далецкіх, «Сватанне» А. Чэхава, «Модны шляхцюк» К Каганца, дэкламацыя твораў Я. Лучыны, Каганца, Я. Купалы, Я. Коласа, Цёткі, М Багдановіча, А Паўловіча, Старога Уласа і інш. бел. аўтараў. Рэпертуар быў разлічаны на масавага гледача, улічваў яго інтарэсы і патрабаванні. Царскія ўлады непрыхільна ставіліся да паказу са сцэны твораў на бел. мове, асабліва на вострыя сац. тэмы, нярэдка забаранялі спектаклі. Б. быў сінтэтычным акцёрам, з поспехам выступаў у драматычных творах, выдатна чытаў прозу і дэкламаваў вершы, спяваў сола і ў хоры, па-майстэрску, з высокім прафесіяналізмам танцаваў. Першым на Беларусі ён звярнуў увагу на прыгажосць і невычэрпныя эстэт. магчымасці нар. танца, як пастаноўшчык вывеў «мужыцкі» танец на сцэну, узняў яго да ўзроўню высокага мастацтва. У 1910—11 тэатр Б. шырока гастраліраваў па Беларусі. пабываў у Дзісне, Свянцянах, Паставах, Полацку, Капылі, Нясвіжы, Клецку, Ляхавічах, Слуцку, Мінску і інш. гарадах і мястэчках. У час гастроляў Б. шмат дапамагаў мясц. аматарам тэатра, чым спрыяў уздыму аматарскага тэатральнага руху на Беларусі. Газ. «Наша ніва» сістэматычна публікавала матэрыялы пра творчасць Б. і яго трупы, папулярызавала дзейнасць артыстаў сярод народа. Б карыстаўся падтрымкай прагрэс. дзеячаў бел. культуры. Я. Купалы, Ядвігіна Ш., Цёткі, Ц Гартнага, З Бядулі, Л і Ч Родзевічаў і інш. Трупа двойчы выступала ў Пецярбургу на вечарах бел. моладзі (1911) і этнаграфічным, падрыхтаваным рэдакцыяй час. «Вестник знания» (1912), а таксама на вечары студэнтаў-беларусаў у Варшаве (1913). Час. «Вестник знания» назваў адным з самых цікавых момантаў вечара ўдзел у ім «піянера народнага беларускага тэатра», «гарачага сэрцам І. Буйніцкага, які спавядаў пачуцці беларуса», адзначыў, што «поспех яго быў каласальны» (Десять лет культурной работы журнала «Вестник знания», 1903—1913. Спб., 1913. С 187, 199). Уціск царскіх улад і матэрыяльныя цяжкасці прымусілі Б. ў 1913 закрыць тэатр. У маі 1914 ен рабіў намаганні стварыць новы тэатр, але 1-я сусв. вайна перашкодзіла ажыццяўленню гэтых планаў З надзеяй на змены да лепшага ў нялегкім лесе бел. народа сустрэў Б. Лют. рэвалюцыю 1917. Ён быў адным з ініцыятараў стварэння *Першага беларускага таварыства драмы і камедыі* (крас. 1917). У апошнія месяцы жыцця знаходзіўся на вайск. службе ў рус. арміі ў раене Маладзечна, дзе займаўся мастацкай самадзейнасцю з удзелам салдат. Тут і памер. Пахаваны непадалеку ад в. Палачаны Вілейскага пав. (цяпер Маладзечанскі р-н), пасля перапахаваны ў в. Палевачы, а ў 1975 астанкі перапахаваны на цэнтр. плошчы в. Празарокі Глыбоцкага р-на. На магіле пастаўлены помнік (10.10.1975; скульпт. І. Міско, арх. М. Бурдзін). У Празароцкай сярэдняй школе створаны музей Б. (1982). Б. застаўся ў нар. памяці як выдатны дзеяч нац. культуры, якога яшчэ пры жыцці называлі «Бацькам беларускага тэатра». У г. Глыбокае яго імем названа вуліца

І Ц Буйніцкі.

Літ · Гісторыя беларускага тэатра Мн, 1983 Т 1 С 428—450, Н я ф е д У Беларускі тэатр Нарыс гісторыі Мн, 1959 С 89—107; Я г о ж Гісторыя беларускага тэатра Мн, 1982 С 84—104, Я г о ж Ігнат Буйніцкі — бацька беларускага тэатра Мн, 1991, Да стагоддзя з дня нараджэння І Ц Буйніцкага // Беларускае мастацтва Мн., 1962 Вып. 3, А б р а м о в і ч З Няходжанымі сцежкамі // Полымя 1971. № 4 *У І Няфед*

**БУЙНІЦКІ** Казімір Андрэевіч (30.11. 1788, в. Дагда Даўгаўпілскага р-на Латвіі — 14.7.1878), публіцыст, пісьменнік, краязнавец. Ганаровы куратар школ Віцебскай губ. У 1842—49 выдаваў час. «Rubon» («Рубон»), супрацоўнічаў у час. «Tygodnik Petersburgski» («Штотыднёвік пецярбургскі»), «Athenaeum» («Атэнэум») і інш. Актыўны чл. *Віленскай Археалагічнай камісіі*. Садзейнічаў адкрыццю *Віленскага музея старажытнасцей*, якому перадаў уласную калекцыю знаходак з Падзвіння і матэрыялы апісання Зах. Дзвіны. Напісаў гісторыю Полацка (рукапіс згарэў у час паўстання 1863—64). Шмат вандраваў па Падзвінні, апісаў значную колькасць населеных пунктаў гэтага краю. Апублікаваў этнагр.-краязнаўчы нарыс «Падарожжа па малых дарогах» (т. 1—2, 1841), аповесці «Сястра Гертруда» (1842), «Новая вандроўка па малых дарогах» (т. 1—2, 1852) і інш. Друкаваўся таксама пад псеўд. Autor Pamiętników Jordana

**БУ́ЙНІЦКІ СВЯТАДУХАЎСКІ МАНАСТЫ́Р.** Існаваў у 1633—1918 на правым беразе Дняпра на Пн ад в. *Буйнічы* пад Магілевам. Заснаваны як мужчынскі Багданам Сцяцкевічам і яго жонкай Аленай (Саламярэцкай). У правілах агульнага жыцця арыентаваўся на Віленскі праваслаўны Святадухаўскі манастыр. Належаў да групы манастыроў, заснаваных ва ўсх. Беларусі з мэтай процідзеяння рашэнням *Брэсцкай уніі 1596*. Нагляд за манастыром ажыццяўляў куцеінскі ігумен Іаіль Труцэвіч. У 1652 навагрудскі кашталян М. Сцяцкевіч («дедич маетности Барколабовское») падзяліў папалам паміж Б. С. м і жаночым Баркалабаўскім манастыром вёскі Касцёнкі і Халмы, даўшы кожнаму па 50 валок зямлі. Буйніцкі намеснік Самуіл безвыніковa спрабаваў аспрэчваць гэта рашэнне Спрэчка за фундушавыя вескі паміж манастырамі вырашана ў 1759 падканцлерам М. Сапегам і магілеўскім епіскапам Г. Каніскім. Існуе шэраг каралеўскіх грамат у абарону манастыра ад суседзяў на валоданне зямельнай уласнасцю. За агітацыйныя дзеянні сярод насельніцтва на вернасць каралю Яну ІІ Казіміру ў час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 буйніцкія манахі атрымалі прывілей на млын. У 1708 у час Паўночнай вайны 1700—21 манастыр цалкам разбураны шведамі, але хутка адбудаваны. З 1835 ператвораны ў жаночы, з 1896 пры ім працавалі 2-класная жаночая школа, з 1891 — епархіяльны свечачны завод. У 1908 у манастыры 18 двароў, 118 насельнікаў. Будынкі не захаваліся.

Літ Археографический сборник документов Т 2 Вильна, 1867 *А А Ярашэвіч*

**БУ́ЙНІЧЫ,** веска ў Цішкоўскім сельсавеце Магілеўскага р-на, на р. Дняпро. За 3 км на ПдУ ад Магілева, 2 км ад чыг. ст. Буйнічы, на аўтамагістралі Магілёў — Бабруйск. Цэнтр калгаса «Чырвоная Зорка». 900 ж., 307 двароў (1990).

Мясцовасць заселена ў глыбокай старажытнасці, пра што сведчыць стаянка эпохі мезаліту (8—5-е тысячагоддзе да н. э.) на паўд. ускраіне вескі і гарадзішча ранняга жал. веку ва ўрочышчы Благадаць (за 300 м на Пд ад вескі). Вёска вядома з 15 ст. ў ВКЛ як цэнтр буйнога ўладання (уключала землі вакол Магілёва паміж Шкловам і Быхавам), што належала князям Федару і Льву Талочкавічам-Буйніцкім (сынам Юрыя Талочкі, які згадваецца ў 1399). Пасля смерці Аляксея Львовіча Буйніцкага (каля 1506) Б. адышлі да яго сясцёр, у т. л. Ганны — жонкі кн. Івана Крошынскага. Пазней належалі Васілю Іванавічу Крошынскаму і яго сестрам, з якіх Таццяна была жонкай Сямена Кміты, Марыя — кн. Міхаіла Федара-

віча, Аўдоцця — Івана Кміты-Беразавіцкага Дачка В І Крошынскага Паланея ў 1551 уиесла частку Б у якасці пасагу полацкаму шляхціцу Баркулабу Іванавічу Корсаку, які пазней атрымаў дадатковыя падараванні са складу дзяржаўнай Магілёўскай вол. Ён заснаваў на буйніцкіх землях ніжэй па Дняпры новы цэнтр уладання — *Баркалабава*, а землі, што на захад ад Б., засяліў прыхожымі людзьмі вёскі Вендараж, Куты, Будзішча. Зяць Корсака — кн Багдан Іванавіч Саламярэцкі — да 1592 выкупіў у саўладальнікаў (Філона Сямёнавіча *Кміты-Чарнабыльскага*, Солтанаў, князёў Масальскіх, Крошынскіх) астатнія часткі Б і далучыў да Баркалабаўскага маентка. У час сялянска-казацкага паўстання 1594—96 на Украіне і Беларусі каля вёскі адбылася бітва (1595) паміж паўстанцкім атрадам С Налівайкі і войскам ВКЛ. У 17—18 ст. Б — прыватнаўласніцкае мястэчка ў Аршанскім пав, якое падзяляла лёс Баркалабава належала Саламярэцкім, Сцяцкевічам, кн А. Г. Палубінскаму, Сапегам. У 1633 заснаваны *Буйніцкі Святадухаўскі манастыр* У 1630-я гады ў мястэчку працавала друкарня С *Собаля*, дзе быў надрукаваны «Псалтыр» (1635) У час Паўночнай вайны 1700—21 каля Б размяшчаўся лагер шведскіх войск на чале з Карлам XII (1708), манастыр быў абрабаваны захопнікамі. Побач з мястэчкам існаваў фальварак, які здаваўся ў арэнду. Пасля далучэння да Расіі (1772) яго арандаваў магілеўскі каталіцкі архіепіскап С І *Богуш-Сестранцэвіч*, частка мястэчка была перададзена Кацярынай II бел. намесніку ген.-аншэфу П. Б. Пасеку. У 19 ст. Б уваходзіла ў склад Вендаражскай вол Магілеўскага пав У 1878 фальварак набыў памешчык М. Марачэўскі. У 1880 у мястэчку 256 ж, 64 двары, 2 царквы, жаночае вучылішча пры манастыры, яўрэйская малітоўная школа. Была наладжана палатняная і суконная вытв-сць, адкрыты пункт па вывядзенні чыстапародных рысістых коней, частка вяскоўцаў займалася кавальскім, сталярным, кравецкім і шавецкім промысламі Апошняй уладальніцай маёнтка на пач 20 ст была Г К Радкевіч У 1909 у мястэчку 427 ж., 81 двор, царква, царкоўнапрыходская і яўрэйская малітоўныя школы, казённая вінная крама, у маёнтку 6 ж., 2 двары; у манастыры — каля 100 манашак У 1901—13 у мястэчку дзейнічала цагельня з паравым рухавіком у 40 к. с. (з 1908), дзе працавала 100 рабочых (1913). Сав. ўлада ўстаноўлена ў ліст. 1917. З лютага да кастр 1918 Б. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі. У лют. 1931 арганізаваны калгас «13 год Чырвонай Арміі» У 1933 веска атрымала электрычнае святло У 1940 765 ж., 141 двор. У ліп. 1941 на паўн.-зах. ускраіне Б адбываліся баі Чырв. Арміі супраць ням.-фаш. захопнікаў (гл ў арт *Буйніцкае поле*), веска акупіравана У крас 1944 гітлераўцы спалілі 118 двароў, загубілі 96 жыхароў. Вызвалена 27 6.1944. На франтах і ў партыз. барацьбе загінула каля 100 вяскоўцаў. Пасля вайны адбудавана. У 1970 у Б. 881 ж., 272 двары Тут размешчана вучэбная гаспадарка Магілеўскага СПТВ № 1 імя К. П. Арлоўскага, комплексная брыгада, Магілёўскае раеннае аб'яднанне па вытворча-тэхн. забеспячэнні сельскай гаспадаркі, Магілёўскае райаб'яднанне «Сельгасхімія», млын, гандл. комплекс, Дом быту, Дом культуры, б-ка, сярэдняя агульнаадукацыйная і музычная школы, фельчарска-акушэрскі пункт, магазін.

У весцы брацкая магіла сав. воінаў, што загінулі ў баях за вызваленне вескі ад ням.-фаш. захопнікаў, помнік на месцы баеў 1941, мемарыяльны знак К. М. Сіманаву, мемарыяльная дошка Герою Сав. Саюза І. М Мяльнову

*Літ* Гл пры арт *Баркалабава*

*В Л Насевіч, В В Віталева*

**БУ́КВІЦА**, гл. *Ініцыял.*

**БУКЧЫ́Н** Сямен Уладзіміравіч (н. 18.8. 1941, с Валаконаўка Курскай, цяпер гар. пас Белгародскай вобл.), беларускі крытык і літаратуразнавец. Канд філал. навук (1972). Пасля сканчэння БДУ (1967) працаваў на Бел. тэлебачанні, у БелСЭ. З 1969 адказны сакратар час. «Весці АН БССР», з 1985 навук. супрацоўнік Ін-та літаратуры АН Беларусі З 1992 рэдактар газ. «Европейское время» Піша на рус і бел. мовах, даследуе праблемы бел.-рускіх узаемасувязей («..Народ, спрадвеку родны нам», 1984) і гісторыю рускай л-ры 19 — пач. 20 ст. («Лес фельетаніста. Жыцце і творчасць Уласа Дарашэвіча», 1975), гісторыю бел. фальклерыстыкі і журналістыкі. Аўтар мастацка-дакумент. аповесцей пра дзекабрыстаў на Беларусі («Да мячоў ірванулісея нашы рукі», 2 выд. 1985), пра бел перыяд у жыцці Дз Фанвізіна («Апошні год Дзяніса Фанвізіна», 1981)

*Л С Савік*

М Ф Букштыновіч

**БУКШТЫНО́ВІЧ** Міхаіл Фаміч (1892, в. Жомайдзь Ашмянскага пав. Віленскай губ., цяпер Валожынскі р-н — 28.6.1950), савецкі ваенны дзеяч, генерал-лейтэнант (1945) Пасля сканчэння Віленскага камерцыйнага вучылішча (1912) служыў ва ўпраўленні Палескай і Аляксандраўскай чыгунак. З 1915 у арміі. Скончыў Ташкенцкую школу прапаршчыкаў (1916). У 1917 добраахвотнікам уступіў у Чырв гвардыю, камандзір атрада. З 1918 у Чырв Арміі. Ваяваў на Усх. фронце супраць калчакаўцаў (1919—20), быў камендантам крэпасці Кушка (1921), змагаўся з басмачамі ў Ферганскай вобл. (1922—23), пам камандзіра, камандзір палка, брыгады Скончыў курсы «Выстрал» (1924), курсы ўдасканалення вышэйшага камсаставу пры Ваен. акадэміі імя Фрунзе (1927 і 1931). У 1924—25 нач. Ташкенцкай ваен. школы. З 1931 нам. камандзіра, камандзір дывізіі, корпуса. У Вял. Айч. вайну з 1942 камандзір дывізіі, корпуса, нач штаба арміі Удзельнічаў у баях на Калінінскім, 2-м Прыбалтыйскім, 1-м Бел. франтах. Часці і злучэнні пад яго камандаваннем вызначыліся пры вызваленні Невеля (1943), у Вісла-Одэрскай і Берлінскай (1945) аперацыях. Пасля вайны ў Генштабе Узбр Сіл СССР Яго імем названа вуліца ў Валожыне.

**БУ́ЛА** (лац bulla шарык), у сярэдняевечны круглая металічная (са свінцу, серабра, золата) пячатка, якая змацоўвала папскі, імператарскі, каралеўскі дакумент, а таксама назва самога дакумента, які змацоўваўся Б У *сфрагістыцы* Б.— віслыя металічныя *пячаткі* Назва паходзіць ад свінцовых шарыкаў, праз якія працягваўся шнурок, і на якіх адціскаўся адбітак спец. шчыпцамі — булатарыямі З'явіліся ў Рыме ў канцы 4 ст. З канца 10 ст вядомы на Русі. Свінцовыя Б. і тыпалагічна блізкія да іх пломбы знойдзены ў Брэсце, Ваўкавыску, Віцебску, Гродне, Мінску, Тураве Пячаткі тыпу Б. полацкага кн Ізяслава і Ефрасінні Полацкай выяўлены ў Ноўгарадзе.

**БУЛАВА́**, старадаўняя халодная зброя бліжняга бою, якая мела форму палíцы (дахж 0,5—0,8 м) з галоўкай рознай канфігурацыі. Дзяржанне звычайна драўлянае з накладнымі металічнымі пласцінамі, зрэдку — полая металічная труба з гравіроўкай або гладкая, паліраваная. Найб. характэрная зброя народаў стараж. Усходу. З сярэднявечча вядома на тэр. Еўропы, ў т л. ўсх. славян. З 16 ст.— сімвал вайск. старшынства. Паводле археал. раскопак на Беларусі Б. вядома з каменнай галоўкай з канца неаліту (стаянка *Гронаў*). У бронзавым веку Б. выраблялі з каменнай або касцяной галоўкай шарападобнай або 4-раговай формы (в. Ляды Барысаўскага, в. Віць Хойніцкага, г. п. Сапоцкін Гродзенскага р-наў і інш.). З 10—11 ст. выраблялі бронзавыя свінцовыя і жал. Б. разнастайнай формы шарападобнай 8-дольнай (Лукомль, 12—13 ст.), грыбападобнай (Брэст, Давыд-Гарадок, 12—13 ст.), грушападобнай (Нясвіж), бочачкападобнай з пірамідальнымі шыпамі або выступамі (Гродна, Заслаўе, Копысь, Слуцк, 10—13 ст.), у форме куба (Полацк), куба з усечанымі вугламі (гарадзішча *Маскавічы*) Жа-

лезныя галоўкі мелі масу 110, 175 г, бронзавыя са свінцовай залiўкай — 180, 195 г. Як сімвал улады Б. аздаблялі каштоўнымі камянямі і металамі (у скарбніцы нясвіжскіх Радзівілаў у 17 ст. захоўвалася Б. «гетманская, апраўленая золатам, бірузой і рубінамі»; гл. таксама *Мінчыцкі манетна-рэчавы скарб*). У бел. вайсковай тэрміналогіі «вялікая булава» азначала ўладу вял. гетмана, «булава польная», або «булава меншая»,— гетмана польнага. У канцы 18 ст. на Беларусі Б. знікла з ужытку.

*Літ* Очерки по археологии Белоруссии Ч 1—2. Мн, 1970—72, Штыхов Г В Древний Полоцк, IX—XIII вв Мн, 1975, Яго ж Города Полоцкой земли (IX—XIII вв.) Мн, 1978, Исаенко В Ф Археологическая карта Белоруссии Вып 3 Мн, 1976; Заяц Ю А Зброя блізкага бою, рыштунак коиніка і верхавога каня з раскопак Заслаўя // Помнікі культуры Новыя адкрыцці Мн, 1985, Лысенко П Ф Берестье Мн, 1985, Гурин М Ф Кузнечное ремесло Полоцкой земли IX—XIII вв. Мн., 1987, Калечиц Е Г Памятники каменного и бронзового веков Восточиой Белоруссии Мн, 1987 *М А Ткачоу*

Булава «Моргенштэрн» 16 ст з Віцебска

**БУЛА́К-БАЛАХО́ВІЧ** Станіслаў Нікадзімавіч [29.1(10.2).1883, маёнтак Мейшты Браслаўскага пав.— верасень, 1939], ваенны і палітычны дзеяч. Паходзіў з дробнай бел. шляхты. Нарадзіўся ў сям'і кухара памешчыкаў Мейштовічаў; маці была полька. Потым сям'я арандавала фальварак Стокапіева иа Браслаўшчыне. Скончыў агранамічную школу. У 1905 выступаў на баку сялян у іх канфліктах з памешчыкамі, за што атрымаў мянушку «Бацька». У 1-ю сусв. вайну з 20.8.1914 добраахвотнік у 2-м Курляндскім уланскім палку рус арміі на Паўн -Зах фронце З ліп 1915 прапаршчык, з 1917 — штабс-ротмістр. З ліст. 1915 камандзір партыз. эскадрона, пазней партыз. атрада (каля 500 чал.) 2-й кав. дывізіі на Паўн фронце пад Рыгай. Атрад рабіў дыверсійна-разведвальныя рэйды па тылах ням. войск. Вясной 1918 уступіў у Чырв. Армію і сфарміраваў у г. Луга 1-ы Лужскі партыз. конны полк, з мая 1918— 3-і Петраградскі полк 4-й Петраградскай дывізіі. 7 11 1918 разам са сваім палком перайшоў на бок Пскоўскага добраахвотніцкага корпуса белых у раене Пячор. Пасля адступлення ням. войск бараніў тэр. Эстоніі ад войск Чырв. Арміі. Са студз. 1919 конны партыз. атрад падпалкоўніка Б -Б дзейнічаў у складзе паўд. групы Паўн.-Зах. арміі (у лют 1919 атрад перайменаваны ў конны полк імя Б.-Б.). 15.5.1919 полк заняў г. Гдоў, за што Б.-Б атрымаў чын палкоўніка, пасля захопу 29.5 1919 Пскова — чын генерал-маера, а яго часці пераўтвораны ў асобную зводную дывізію. У жн. 1919 ген М. М. Юдзеніч назначыў Б.-Б. камандуючым 2-м корпусам Паўн -Зах. арміі. Адносіны паміж Б -Б, які прытрымліваўся леваэсэраўскіх поглядаў, і Юдзенічам абвастрыліся, і Юдзеніч загадаў арыштаваць Б -Б. і аддаць пад суд. З Пскова Б.-Б. уцек на фронт. Пасля паражэння арміі Юдзеніча ў студз. 1920 Б.-Б. арыштаваў Юдзеніча, але пад націскам англійскай місіі ў Эстоніі адпусціў яго. Б.-Б. устанавіў кантакт з місіяй Беларускай Нар Рэспублікі ў Латвіі і Эстоніі і 20.1.1920 быў прыняты са сваім конным атрадам (1200 чал.) у склад войска БНР. Палову афіцэраў і 75 % салдат атрада складалі беларусы. Шэф вайскова-дыпламатычнай місіі Рады БНР у Латвіі і Эстоніі палк. К. Езавітаў 8.2.1920 прасіў галоўнакамандуючага польскай арміяй Ю Пілсудскага дазволіць перавесці Асобны (Беларускі) атрад Б.-Б. на Беларусь і даць яму ўчастак фронту для барацьбы супраць Чырв. Арміі на левым фланзе. 23.2.1920 Б.-Б. падпісаў пагадненне ў Рызе з польскай місіяй пра сумесныя дзеянні. 14.3.1920 ен перайшоў Зах. Дзвіну і быў накіраваны ў Брэст 3.6.1920 атрады Б.-Б. (Беларуская група, або Беларуская Нацыянальная Армія, каля 2 тыс шабель) прымалі ўдзел у ваен. дзеяннях супраць Чырв. Арміі на Палессі. Б.-Б. рабіў кав. налеты на тылы сав. войск, штабы злучэнняў і асобныя часці Чырв. Арміі. Захапіў Оўруч На пач. жн. 1920 прабіўся цераз фронт і 16.8.1920 разбіў 67-ы полк 1-й Коннай арміі 26 9 1920 прарваўся ў тыл Чырв. Арміі, захапіў Пінск. 27.7.1920 Б.-Б. пайшоў на пагадненне з Б. В. *Савінкавым*, старшыней Рускага паліт. к-та ў Польшчы, якога падтрымліваў начальнік Польскай дзяржавы Пілсудскі. Б.-Б. і Савінкаў аб'ядноўвалі свае ваен. атрады пад паліт. кіраўніцтвам Савінкава і ваенным — Б.-Б. Адначасова 12.10.1920 Б.-Б падпісаў пагадненне з Бел. паліт. камітэтам у Варшаве на чале з П. Алексюком, які прытрымліваўся польскай арыентацыі. Паводле пагаднення, пры вызваленні тэр. Беларусі Б.-Б. мусіў перадаваць цывільную ўладу ўраду Алексюка. На Палессі ў раене Лунінец — Мікашэвічы пачалося фарміраванне Рускай нар. добраахвотнай арміі на чале з Б.-Б., у склад якой уключаліся часці Бел атрада Б.-Б і мясц. жыхары. Пасля захопу Мазыра армія Б.-Б. 14.11.1920 атрымала назву Саюзнай Народнай Арміі, якая выступала за вызваленне Расіі ад бальшавікоў і стварэнне федэрацыі народаў, а таксама за незалежнасць Беларусі. Быў падрыхтаваны і ажыццеўлены *Булак-Балаховіча паход 1920*. Частка атрадаў Б.-Б. прымала ўдзел у партыз. вайне супраць сав. органаў улады на Беларусі да 1922. Потым Б.-Б. быў залічаны ў склад польскага войска як генерал брыгады і стаў старшыней Саюза былых удзельнікаў нац. паўстанняў (камбатантаў). Выдаваў публіцыст. кнігі, варожыя сав уладзе, камуністам і Гітлеру, напісаў зборнік вершаў на бел. мове. У 1937—39 прымаў удзел як назіральнік польскай ваен. місіі ў арміі ген. Ф. Франка, прымаў удзел у вайне ў Іспаніі У 2-ю сусв вайну ў вер 1939 на чале атрада добраахвотнікаў удзельнічаў у абароне Варшавы Паводле адных звестак, загінуў у час баеў у вер. 1939, па іншых — загінуў пры нявсветленых абставінах у Варшаве Да канца жыцця стаяў на антыбальшавіцкіх і антыфашысцкіх пазіцыях Яго імем названа вуліца ў г. Белавежа (Беластоцкае ваяв., Польшча, 1990).

*Тв* Вершы // Спадчыиа 1991 № 6, List otwarty gen Bułak-Bałachowicza do sejmu ustawodawczego Rzeczypospolitej Polskiej Warszawa, 1922, Precz z Hitlerem! czy Niech żyje Hitler! Warszawa, 1933

С Н Булак-Балаховіч (стаіць чацверты злева) пасля пераходу Заходняй Дзвіны 14 3 1920

*Літ* Гл пры арт *Булак-Балаховіча паход 1920* *А П Грыцкевіч*

**БУЛА́К-БАЛАХО́ВІЧА ПАХО́Д 1920**, ваенная акцыя Рускай нар. добраахвотніцкай арміі (з рус. і бел. вайсковых часцей) на чале з ген.-м. С. Н *Булак-Балаховічам* у ліст. 1920 на Палессі. Мела на мэце стварэнне незалежнай Бел. дзяржавы і саюзнай з ей Расійскай дэмакр рэспублікі. Акцыя падтрымана начальнікам Польскай дзяржавы Ю. Пілсудскім Паліт. кіраўнік акцыі — старшыня Рускага паліт. к-та ў Польшчы Б В. Савінкаў. Пры падтрымцы Пілсудскага Савінкаў 27.7.1920 заключыў з Булак-Балаховічам пагадненне пра аб'яднанне рус атрадаў, сфарміраваных Савінкавым з ваеннапалонных чырвонаармейцаў (гал. чынам сялян з Расіі), камандзіраў і Бел групы (атрадаў) Булак-Балаховіча. У аб'яднанне ўвайшлі таксама партыз. атрады *«Зялёнага дуба»* і вайск. атрады Бел. палітычнага к-та ў Варшаве на чале з П. Алексюком, з апошнім Булак-Балаховіч заключыў 12.10.1920 пагадненне з умовамі захавання за сабой вайск. улады і перадачы цывільнай улады на Беларусі Алексюку і яго камітэту. Каб прыцягнуць яўрэйскае насельніцтва, быў створаны асобны «гебрайскі швадрон» (яўрэйскі эскадрон) паручніка Цэйтліна. Аднак у склад гэтага войска трапіла (асабліва ў тылавыя аддзелы) і шмат авантурыстаў, белагвардзейцаў і разбэшчаных вайной людзей, якія рабавалі і забівалі насельніцтва, гвалцілі жанчын і ўчынялі яўрэйскія пагромы.

У кастр.— пач. ліст. 1920 армія Булак-Балаховіча была сканцэнтравана ў раёне Лунінец — Мікашэвічы — Тураў. Яна складалася з 20 тыс чал., з іх каля 15 тыс.— у страі. У складзе арміі 3 пях. і 1 кавалерыйская дывізіі, сялянская пях брыгада, асобны «туземны» кав. полк, полк данскіх казакаў і інш 6.11.1920 з Турава армія Булак-Балаховіча пачала наступленне на У па абодвух берагах Прыпяці. Гал. удар абрушыўся на 10-ю стралк. дывізію Чырв. Арміі, якая панесла значныя страты і вымушана была адступіць. 8 ліст. войскі Булак-Балаховіча занялі Петрыкаў, 9 — мяст Скрыгалаў і в Скрыгалаўская Слабада. Пасля цяжкага бою Пскоўскі полк 1-й дывізіі «смерці» палк. Мацвеева 10 ліст. заняў Мазыр, які стаў цэнтрам ваеннай і паліт. дзейнасці Булак-Балаховіча. Палкоўнік Паўлоўскі з палонных сфарміраваў Мазырскі полк 10 ліст. Вастраўскі полк 1-й дывізіі арміі Булак-Балаховіча заняў Калінкавічы. Частка яго войска — 2-я пях. дывізія і група палк Язэпа Булак-Балаховіча (мал. брата генерала) — наступала на Рэчыцу, а другая частка — на Оўруч і Чарнобыль 16 ліст атрады С. Н Булак-Балаховіча з 3 бакоў падышлі да Рэчыцы і пачалі баі на яе ўскраінах.

Пасля захопу Мазыра С Н. Булак-Балаховіч адкрыў свае паліт планы

Б А Булат.

Насуперак намеру Савінкава ён з 12 ліст пачаў у Мазыры выдаваць паліт акты і загады, накіраваныя на стварэнне незалежнай Беларускай дзяржавы, абвясціў сябе «начальнікам Беларускай дзяржавы» і пракламаваў незалежнасць Беларусі. 14 ліст ён выдаў загад пра фарміраванне бел. арміі з беларусаў і ўраджэнцаў Беларусі. За тыдзень з добраахвотнікаў сфарміраваны Сялянскі партыз. аддзел і Хабненскі полк С. Н. Булак-Балаховіч абвясціў сябе галоўнакамандуючым усімі ўзбр. сіламі на тэр. Беларусі. Камандаванне Рускай нар. добраахвотніцкай арміяй ён перадаў свайму брату Язэпу, надаўшы яму чын генерал-маёра Але фактычна С. Н. Булак-Балаховіч па-ранейшаму камандаваў усёй Саюзнай арміяй. У Мазыр з Варшавы прыбылі члены Беларускага паліт. к-та Аляксюк і В. Адамовіч, якія заключылі з С. Н Булак-Балаховічам і Савінкавым пагадненне аб прызнанні Рускай добраахвотнай арміяй незалежнасці Беларусі з наступным узгадненнем Устаноўчымі соймамі Расіі і Беларусі канчатковай формы ўзаемаадносін С. Н. Булак-Балаховіч назначыў Алексюка старшынёй свайго ўрада, а эміграцыйныя ўрады В. Ластоўскага і А Луцкевіча і ўрад А Чарвякова ў Менску абвясціў «звергнутымі».

Барацьбу супраць арміі С Н. Булак-Балаховіча вяла савецкая 16-я армія Зах. фронту На фронт былі скіраваны дадатковыя сілы, рэгулярныя войскі Чырв. Арміі мелі колькасную перавагу З боку Жлобіна контрнаступленне Чырв. Арміі пачалося 16 лістапада. Яе часці занялі 17 ліст. Калінкавічы Баючыся застацца адрэзанымі, перадавыя атрады С. Н. Булак-Балаховіча 18 ліст спынілі атакі ў раёне Рэчыцы; 19 ліст. пачалося агульнае адступленне дывізій 2-я пях дывізія балахоўцаў упарта абараняла Мазыр, але 20 ліст. ён быў захоплены. Асноўнай частцы арміі Булак-Балаховіча ўдалося 22 ліст. ў раёне Капліцы — Якімавічы (на Пд ад Мазыра) прабіцца скрозь заслоны 33-й Кубанскай казацкай дывізіі і 24 ліст фарсіраваць Пціч. 26 ліст. войскі Булак-Балаховіча выйшлі цераз Жыткавічы да чыг. ст. Сінкевічы ў раён размяшчэння польскіх войск. План камандавання Чырв. Арміі знішчыць вайсковыя сілы арміі Булак-Балаховіча не ўдаўся Армія Булак-Балаховіча сабралася ў раёне Тураў — Давыд-Гарадок — Лахва і была раззброена польскімі войскамі (паводле ўмоў сав.-польскага перамір'я 12.10.1920), частка яе перайшла ў нейтральную зону (15 км па абодва бакі мяжы) і адтуль асобнымі атрадамі працягвала ваен дзеянні супраць Чырв. Арміі. Частка арміі засталася на месцы ў час адступлення і таксама працягвала барацьбу. Налёты атрадаў Булак-Балаховіча на тэр. БССР працягваліся да 1922.

Акцыя Булак-Балаховіча мела некалькі паліт напрамкаў. Паводле ўмоў сав.-польскага дагавору польскаму ўраду трэба было выдаліць з кантралюемай ім тэр. ўсе антысав. вайсковыя сілы. Пілсудскі намагаўся пры дапамозе Л Жалігоўскага, Булак-Балаховіча і С Пятлюры здзейсніць свае планы па стварэнні федэрацыі Польшчы, Украіны і Беларусі. Паводле планаў Пілсудскага, Булак-Балаховіч павінен быў злучыць у адну дзяржаву — Беларускую Літву — Бел. Нар. Рэспубліку, Цэнтральную Літву з Вільняй і Гродзенскую губ. Гэтым ён меркаваў скасаваць рыжскі прэлімінарны дагавор Савінкаў спадзяваўся на сял паўстанні ў Расіі і аднаўленне Расійскай дэмакр рэспублікі (як напярэдадні кастр 1917). Акцыя Булак-Балаховіча не мела поспеху таму, што гал. рускія антысав сілы ў Крыме ў гэты час былі разгромлены, і камандаванне Чырв. Арміі здолела перакінуць на Беларусь значныя падмацаванні. Супярэчная ў паліт. плане фігура Булак-Балаховіча, нягледзячы на яго вайск. спрактыкаванасць і падтрымку з боку сялянства Беларусі, якое выступала за незалежнасць Беларусі, супраць бальшавіцкай палітыкі ваен камунізму, не магла аб'яднаць усе нацыянальныя паліт. сілы Беларусі

*Літ* Историко-стратегический очерк XVI-й армии Могилев, 1921 С 148—160, Simanskij P Kampanja białoruska-rosyjskiej armji ludowo-ochotniczej gen Bułak Bałachowicza w r 1920 // Bellona Warszawa, 1931 T 37, z 2, Грицкевич А П Крах контрреволюционной авантюры Булак-Балаховича и эсеро-националистического мятежа в Слуцке (конец 1920 г) // Науч конф юридического фак БГУ Тез. докл Мн, 1966, Яго ж Вакол «слуцкага паўстання» Мн, 1987. С 16—33, Круталевич В От войны к миру // Неман 1968. № 3, 4, Łatyszonek O Generał Bułak Bałachowicz — od armii carskiej do armii narodowej // Dyskusja (Białystok), 1990 № 2—3 (23), Бяляцкі А Бандыт ці нацыянальны герой // Грунвальд (Талін), 1990 № 2, Ермаленак В А Генерал Булак-Балаховіч — хто ён? // Браслаўскія чытанні Браслаў, 1991 *А П Грыцкевіч.*

**БУЛА́Т** Барыс Адамавіч [11(24).7.1912, г. Тула — 27.3.1984], адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партыз руху на тэр. Баранавіцкай вобл ў Вял Айч. вайну. Герой Сав. Саюза (1944). У Чырв. Арміі з 1932. Скончыў 1-ю Сав. аб'яднаную ваен. школу імя ВЦВК (1936), Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1940) У пач.

вайны быў цяжка паранены (страціў кісць правай рукі), трапіў у палон. У вер. 1941 уцёк з канцлагера. У маі 1942 арганізаваў і ўзначаліў партыз. групу, на базе якой створаны атрад, у ліп. стаў яго камандзірам. Са снеж. 1942 нач. штаба, з чэрв. 1943 камандзір Ленінскай партыз. брыгады, у ліст. 1943 — чэрв. 1944 — партыз. брыгады «Уперад» Баранавіцкай вобл. З 1944 маёр Б. у адстаўцы. Жыў у Мінску. У 1944—46 нам. старшыні выканкома гарсавета, з 1947 нам. дырэктара велазавода. Скончыў Вышэйшую школу харчовай прам-сці ў Маскве (1955). У 1951—73 дырэктар кандытарскай ф-кі «Камунарка». Ганаровы грамадзянін г. Ліда. Яго імем названы вуліцы ў Лідзе і Дзятлаве.

**БУЛА́Т** Сцяпан Герасімавіч [30.4(11.5) 1894, в. Слабада-Пырашава Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер в. Слабада Уздзенскага р-на — 24.7.1921], беларускі дзярж. і парт. дзеяч, журналіст. З сям'і батрака. Скончыў Мінскія настаўніцкія курсы, экстэрнам здаў экзамены за курс настаўніцкай семінарыі і з 1913 настаўнічаў у Дзяшчанскім нар. вучылішчы Мінскага пав. У 1915—16 і 1918—19 вучыўся ў Мінскім настаўніцкім ін-це. У 1916 мабілізаваны ў армію, скончыў Віленскае ваен. вучылішча, служыў у 153-м пях. палку, прапаршчык. У канцы снеж. 1917 дэмабілізаваны як настаўнік, працаваў у Слабадскім нар. вучылішчы Мінскага пав. Чл. арг-цыі *«Маладая Беларусь»*, якая ў канцы 1919 пераўтворана ў *Беларускую камуністычную арганізацыю* (БКА). У час акупацыі Беларусі польскімі войскамі чл. ЦК БКА і Паўстанцкага к-та, займаўся арганізацыяй партыз. руху на Міншчыне, вёў прапаганду ідэй сав. улады. Пасля вызвалення Мінска ўступіў у КП(б)Б. У ліп.— жн. 1920 працаваў у Мінскім губ. аддзеле нар. асветы. Са жн. 1920 загадчык аддзела ЦК КП(б)Б па працы ў вёсцы. Адначасова рэдактар газ. «Савецкая Беларусь», заснавальнік і рэдактар газ. «Белорусская деревня». З лют. 1921 член ЦБ, з мая 1921 — 3-і сакратар ЦК КП(б)Б і загадчык агітацыйна-прапагандысцкага аддзела. Яго памяці Я. Купала прысвяціў верш «На смерць Сцяпана Булата», М. Чарот — верш «Дарогай памяці Сцяпана Булата», З. Бядуля — верш «На смерць Сцяпана Булата».

*М. І. Камінскі*

С. Г. Булат.

**БУЛА́ТАЎ** Міхаіл Лявонцьевіч [1760—2(14).5.1825], рускі ваенны дзеяч, ген.-лейт. (1823). Удзельнічаў у вайне на Каўказе ў 1780-я гады, руска-турэцкай вайне 1787—91. У 1792—95 ген.-кватэрмайстар рус. арміі ў Рэчы Паспалітай, потым кіраўнік ваенна-картаграфічных работ у зах. губернях. Удзельнічаў у войнах супраць Францыі 1806—07 і Швецыі 1808—09. У 1812 камандзір 4-га корпуса Дунайскай арміі, у Айч. вайне 1812 браў удзел у кампаніях на Валыні і ў Падляшшы. У вер. 1812 корпус Б. разам з корпусам П. К. Эсена высунуты на левы бераг Зах. Буга супраць гал. сіл аўстра-саксонскіх войск. У баі 6(18) кастр. пад Бяла-Падляскай Б. не аказаў Эсену неабходнай дапамогі, вынікам чаго было адступленне абодвух карпусоў да Брэста. З 2-й пал. кастрычніка корпус Б. ў складзе групы войск Ф. В. Остэн-Сакена удзельнічаў у баях каля Гарнастаевіч (цяпер Свіслацкі р-н) і Ваўкавыска (гл. *Ваўкавыскі бой 1812*). У час замежнага паходу рус. арміі 1813—14 — камандзір асобнага атрада, потым 16-й пях. дывізіі. З 1815 галоўнакамандуючы войск у Бесарабіі. З 1824 ген.-губернатар Сібіры. Яго сын Аляксандр прыцягваўся да адказнасці па справе дзекабрыстаў.

*Літ.:* Булатов Д. А. М. Л. Булатов, *1760—1825* // Русская старина. 1874. Авг., сент.; Записки генерала Изюмова о действиях Чугуевского уланского полка в 1812 г. // Военский К. Исторические очерки и статьи, относящиеся к 1812 г. Спб., [1912].

*В. В. Антонаў*

**БУЛА́ЦКІ** Рыгор Васілевіч (н. 5.5.1921, в. Мачулкі Бабруйскага пав.), беларускі гісторык журналістыкі. Д-р гіст. навук (1971), праф. (1972). Удзельнік Вял. Айч. вайны. Скончыў БДУ (1951), працаваў рэдактарам шматтыражнай газ. «Беларускі універсітэт»; выкладчык, з 1961 заг. кафедры, адначасова з 1963 дэкан філалагічнага ф-та, у 1967—81 дэкан ф-та журналістыкі. Працы па гісторыі журналістыкі.

*Тв.:* Оружием слова. О публицистической деятельности П. Н. Лепешинского. Мн., 1968; Первые рабселькоры Белоруссии. Мн., 1969; Ленинской гвардии солдат. 2 изд. Мн., 1970; К. С. Еремеев — революционер, публицист. Мн., 1976; Гісторыя беларускай журналістыкі. Мн., 1979 (разам з І. І. Сачанкам, С. В. Говіным).

**БУЛГА́К** Ігнацій Іасафат [20.4.1758, Слонімскі пав.— 25.2(9.3).1838], беларускі царкоўны дзеяч. Паходзіў са старадаўняй шляхецкай сям'і. У 1763—74 вучыўся ў Жыровіцкай базыльянскай школе (Слонімскі пав.). З 1774 член уніяцкага ордэна базыльян. У 1782—85 вучыўся ў Рыме, дзе стаў д-рам тэалогіі і кананічнага права. Выкладаў у манастырскіх школах у Беразвеччы (цяпер Глыбоцкі р-н) і Жыровічах. У 1790—95 епіскап тураўскі, каад'ютар Пінскай епархіі. У час царавання Паўла І, ва ўмовах лібералізацыі ўрадавай палітыкі адносна уніятаў, Б. зрабіў шэраг захадаў па вяртанні ў унію парафій, якія перайшлі ў праваслаўе; у 1797 паслаў папскаму нунцыю ў Расіі Л. Літу запіскі аб уціску уніятаў у Кіеўскай і Пінскай епархіях. У 1798—1828 епіскап Брэсцкі (рэзідэнцыя ў Навагрудку, з 1810 у Жыровічах). Грэка-каталіцкі мітрапаліт з 1817. З 1818 Б. таксама старшыня 2-га (уніяцкага) дэпартамента Рымска-каталіцкай духоўнай калегіі ў Пецярбургу, з 1828 старшыня асобнай Грэка-уніяцкай калегіі. З 1833 архіепіскап полацкі. Імкнуўся ўзвысіць значэнне базыльян у царкве (прызначэнне іх прадстаўніка ў члены 2-га дэпартамента ў 1819, праект аб'яднання Літоўскай і Беларускай правінцый ордэна і інш.). Узмацненне ва ўнутранай палітыцы царызму рускіх нацыяналіст. тэндэнцый з сярэдзіны 1820-х гадоў прывяло да змяншэння ролі уніяцкай епархіі і асабіста Б. У яго акружэнні пачалі пераважаць маладыя дзеячы (І. *Сямашка*, А. Зубко, В. Лужынскі і інш.), якія ўзялі курс на збліжэнне, а ў далейшым і ўз'яднанне з афіцыйнай праваслаўнай царквой. Падзеі апошніх гадоў жыцця Б. (урадавая рэформа кіравання уніяцкай царквой 1828, вымушанае асуджэнне мітрапалітам *паўстання 1830—31* у Польшчы, на Беларусі і ў Літве і інш.) канчаткова падарвалі яго ўплыў і аўтарытэт. Смерць Б. з'явілася непасрэднай прычынай скасавання уніі.

*Літ.:* Бобровский П. О. Русская греко-униатская церковь в царствование императора Александра I. Спб., 1890; Рункевич С. История Минской архиепископии (1793—1832 г.). Спб., 1893.

*В. В. Антонаў, А. М. Філатава*

**БУЛГАК** Тамаш Іосіфавіч (падп. мянушка Гуліч, 1801, б. фальварак Міцкевічы Навагрудскага ваяв.— 16.2.1895), беларускі рэв. дзеяч, мемуарыст. Вучыўся ў Віленскім ун-це. Падзяляў погляды філарэтаў і філаматаў. Удзельнік паўстання 1830—31. З 1836 выконваў даручэнні Ш. *Канарскага*, рыхтаваўся выступіць у новым сумесным руху на Беларусі і Польшчы. Пасля правалу тайнай арг-цыі арыштаваны ў Вільні і ў 1839 сасланы ў Зах. Сібір на залатыя капальні. За выхадніцтвы і арганіз. здольнасці вылучаны кіраўніком шклозавода. З Сібіры дасылаў Р. А. Падбярэзскаму розныя матэрыялы ў «Rocznik Literacki» (1843—49). У 1857 разам з сям'ёй вярнуўся на радзіму ў Міцкевічы. Удзельнічаў у падрыхтоўцы *паўстання 1863—64*, уваходзіў у склад віленскіх рэв. арг-цый, за што зноў сасланы на катаргу ў Томскую губ. Пасля 6 гадоў катаргі ў 1869 Б. пераведзены ў Цывільск (Чувашыя), потым у Казань, дзе пісаў успаміны. У 1871 па амністыі вярнуўся дамоў. Завяршыў мемуары, потым заняўся філас. трактатамі. Лёс многіх рукапісаў невядомы.

*Літ.:* Szumski W. Wspomnienia lat minionych. Kraków, 1876; Rysiński J. Konarczyk. Lwów, 1895; Szumski S. W walkach i więzieniach. Pamiętniki z lat 1812—1848. Wilno, 1931; Каханоўскі Г. А. Дарогамі паўстанцаў // Полымя. 1989. № 8.

*Г. А. Каханоўскі*

**БУ́ЛГАК** Ян (6.10.1876, в. Асташына, цяпер Навагрудскага р-на — 4.2.1950), беларускі і польскі этнограф, фальклярыст, майстар мастацкай краязнаўчай фатаграфіі. Да 1912 жыў у в. Перасека Мінскага пав. У 1919—39 кіраўнік лабараторыі мастацкай фатаграфіі пры Віленскім ун-це. Заснавальнік і старшыня фотаклуба Польшчы, Віленскага фотаклуба, саюза польскіх мастакоў-фатографаў, польскага фатаграфічнага таварыства. Апублікаваў шмат здымкаў бел. краявідаў, вёсак, гасп. пабудоў, бел. сялян у розных этнагр. выданнях і часопісах «Ziemia» («Зямля»), «Kwartalnik Litewski» («Літоўскі квартальнік»), «Wieś ilustrowana» («Ілюстраваная вёска») і інш. Найб. вядомыя фота: «Беларус з-пад Клецка», «Бабулька-беларуска з маёнтка Перасека пад Мінскам», «Жабракі беларусы пад Мінскам», «Беларуская дзяўчына з-пад Клецка ў народным убранні», «Беларуска з-пад Клецка ў народным строі з самаробнага сукна». Аўтар краязнаўчых артыкулаў «Экскурсія на Свіцязь» (1910), «Велікодныя песні на Міншчыне (валачобнікі)» (1911), прац пра мастака Ф. Рушчыца (у кн.: Фердынанд Рушчыц. Вільня, 1939), даследаванняў і падручнікаў па тэхніцы фатаграфіі. Фотатэка Б. (каля 10 тыс. экз.) згарэла ў 1944 у Вільні. Многія яго фатаграфіі з бел. зямель зберагаюцца ў Дзярж. гіст. архіве Літвы і Цэнтр. б-цы АН Літвы ў Вільнюсе.

*Літ.:* Grabowski L. Jan Bułhak. Warszawa, 1961. *І. У. Саламевіч.*

Я. **Булгак.** Беларуская вёска.

**БУЛГА́КАЎ** Міхаіл Пятровіч, гл. *Макарый.*

**БУЛГАКО́ЎСКІ** Дзмітрый Гаўрылавіч [1845—1918(?)], беларускі этнограф, краязнавец. Скончыў Мінскую духоўную семінарыю (1869). У 1902 злажыў з сябе духоўны сан. Працаваў настаўнікам рус. і царк.-слав. моў у Ваўкавыску, Пінску. Вывучаў гісторыю, нар. культуру і побыт беларусаў. Напісаў «Гістарычны нарыс Ваўкавыска», «Дапаможнік па рускім правапісе», працы царкоўна-рэліг. зместу. Друкаваў артыкулы па гісторыі і культуры беларусаў, фальклорна-этнагр. творы ў газетах «Новое время», «С.-Петербургские губернские ведомости», «Виленский вестник», «Минские губернские ведомости». Гал. праца — фальклорна-этнагр. зборнік «Пінчукі» (Спб., 1890), які з'яўляецца каштоўнай крыніцай вывучэння побыту і вусна-паэтычнай творчасці беларусаў 2-й пал. 19 ст.

*Літ.:* Довнар-Запольский М. [рэц.] // Этнографическое обозрение. Спб., 1891. № 4. *В. К. Бандарчык.*

**БУЛГА́РЫН** Фадзей Венядзіктавіч [24.6(5.7).1789, маёнтак Пырашава Ігуменскага пав., цяпер Уздзенскі р-н — 1(13).9.1859], рускі журналіст і пісьменнік. Са шляхецкай сям'і. У маладосці афіцэр рускай арміі, удзельнічаў у войнах Расіі з Францыяй і Швецыяй пачатку 19 ст. Звольнены «по худой аттестации», адправіўся ў Парыж, дзе паступіў у французскую армію. Удзельнічаў у вайне 1812 на баку Напалеона. Пасля палону апынуўся ў Вільні, быў членам т-ва *шубраўцаў.* З 1819 у Пецярбургу. Да 1825 супрацоўнічаў у «Полярной звезде» А. А. Бястужава і К. Ф. Рылеева, сябраваў з А. С. Грыбаедавым, які падарыў яму ў 1828 аўтарызаваны спіс сваёй камедыі «Гора ад розуму». Садзейнічаў з'яўленню ў рус. літаратуры некаторых новых жанраў. Пазней зацяты рэакцыянер, асведаміцель 3-га аддзялення, пісаў даносы на пісьменнікаў. У 1825—59 (з 1831 разам з М. І. Грэчам) выдаваў рэакцыйную газ. «Северная пчела». Аўтар дыдактычных і гіст. раманаў, нораваапісальных нарысаў, якія мелі часовы поспех. У найбольш вядомым яго рамане «Іван Выжыгін» (1828), а таксама ва «Успамінах» (ч. 1—6. Спб., 1846—49) і некаторых нарысах адлюстраваны побыт насельніцтва Беларусі. Зняважліва ставіўся да беларускай мовы (у «Іване Выжыгіне» па-беларуску размаўляе адмоўны персанаж Кручкатворскі). Адзін з выразнікаў ідэй афіц. народнасці. Як крытык выступаў супраць рэаліст. кірунку ў л-ры, назваў яго «натуральнай школай». Перадавая грамадскасць, у т. л. А. С. Пушкін, В. Р. Бялінскі, А. І. Герцэн, М. А. Дабралюбаў, вяла барацьбу супраць Б. як увасаблення паліт. рэакцыі і маральнай неразборлівасці ў л-ры і журналістыцы. Яскравы сатырычны вобраз Б. намаляваны ў бел. паэме «Тарас на Парнасе». Радаводная справа Булгарыных з некаторымі асабістымі дакументамі Б. захоўваецца ў ЦДГА Беларусі ў Мінску (ф. 319, воп. 2, спр. 360). У выдадзеных «Творах» Б. (М., 1990) ва ўступным артыкуле Н. Львовай «Капрыз Мнемазіны» зроблена спроба яго гістарычнай рэабілітацыі.

*Літ.:* Богданович М. Булгарин в белорусской шуточной поэме // Багдановіч М. Збор твораў. Мн., 1968. Т. 2; Очерки по истории русской журналистики и критики. Л., 1950. Т. 1. С. 310—323; Аляксееў Л. Гогалеўская Беларусь // Полымя. 1971. № 12; Кісялёў Г. Пошукі імя. Мн., 1978. С. 75—96; Mejszutowicz-Bocheńska Z. Tadeusz Bułharyn w zyciu literackim Rosij pierwszej połowy w. XIX // Polacy w życiu kulturalnym Rosji. Wrocław etc., 1986. *Г. В. Кісялёў.*

**БУЛЕ́ВІЧЫ,** княжацкі род, прадстаўнікі якога Вішымут, Едзівіл і Спрудзейк названы ў валынска-літоўскім дагаворы 1219. На думку рус. гісторыка І. Бяляева, Б. разам з *Рушкавічамі* валодалі тэр. ад Віліі да Нёмана і Свіслачы (заходняй), на У — да Бярэзіны (дняпроўскай). Літоўскі гісторык Э. Гудавічус лічыць, што Б. валодалі Шаўляйскай зямлёй. Магчыма, яны жылі ў Верхнім Панямонні на ПнУ ад Новагародка, таму кн. *Міндоўг,* імкнучыся пашырыць свае ўладанні на тэр. летапіснай Літвы, знішчыў усіх Б.

*Літ.:* Ермаловіч М. І. Па слядах аднаго міфа. 2 выд. Мн., 1991. *М. І. Ермаловіч.*

**БУ́ЛКІН** Валянцін Аляксандравіч (н. 30.11.1937, Ленінград), археолаг і мастацтвазнавец. Канд. мастацтвазнаўства (1975). Скончыў Ленінградскі дзярж. ун-т (1966). З 1978 дацэнт кафедры гісторыі мастацтва Санкт-Пецярбургскага ун-та. Вывучае археалогію помнікаў архітэктуры і гісторыю стараж.-рус. мастацтва. Кіраваў раскопкамі Полацкага Сафійскага сабора, у выніку якіх рэканструяваў яго план, датаваў першапачатковае будаўніцтва сабора (11 ст.), адкрыў рэшткі прыбудоў да яго 12—13 ст., у фундаменце выявіў камень з надпісам, даказаў наяўнасць княжацкага магільнага склепа і царквы побач.

*Тв.:* Советское источниковедение Киевской Руси: Историогр. очеркн. Л., 1979 (у сааўт.); Проблемы изучения Полоцкого Софийского собора // Древнерусское государство и славяне. Мн., 1983; Надписи на камие из храма Софии в Полоцке (разам з Т. У. Раждзественскай) // Памятники культуры: Новые открытия. Ежегодник 1982. Л., 1984; Социальный заказ и церковное строительство на Руси // Отечественное и зарубежное искусство XVIII в.: Основные пробл. Л., 1986 (Вопросы отеч. и зарубеж. искусства; Вып. 3); Софийский собор в Полоцке: (К вопросу о западных апсидах) // Древнерусское искусство: Худож. культура X — первой половины XIII в. М., 1988. *Г. В. Штыхаў.*

**БУ́ЛКІН** Васіль Аляксандравіч (н. 9.7. 1945, Ленінград), археолаг і гісторык. Канд. гіст. навук (1973). Скончыў Ленінградскі дзярж. ун-т (1970). З 1982 дацэнт кафедры археалогіі Санкт-Пецярбургскага ун-та. Вывучае пытанні развіцця Падзвіння і Верхняга Падняпроўя ў этнакультурных працэсах Усх. Еўропы ў 1-м — пач. 2-га тысячагоддзя н. э.

*Тв.:* Археологические памятники Древней Руси IX — XI веков. Л., 1978 (разам з І. В. Дубавым, Г. С. Лебедзевым); Советское источниковедение Киевской Руси: Историогр. очерки. Л., 1979 (у сааўт.); Некоторые данные об исторической географии центральной Белоруссии // Древнерусское государство и славяне. Мн., 1983; К этноисторической географии Белоруссии (разам з А. С. Гердам) // Археология и история Пскова и Псковской земли: Тез. докл. науч.-практ. конф. Псков, 1987; Герцике и Кукенойс // Генезис и развитие феодализма в России. Л., 1988; Об особенностях географии смоленско-полоцких длинных курганов // Археология и история Пскова и Псковской земли: Тез. докл. науч.-практ. конф. Псков, 1988. *А. А. Трусаў.*

**БУЛЫГІНСКАЯ ДУ́МА,** замацаваная ў гіст. літаратуры назва прадстаўнічага законадарадчага органа ў Расіі, праект стварэння якога распрацаваны ў Мін-ве ўнутраных спраў (міністр А. Р. Булыгін, адсюль назва) і аб'яўлены царскім маніфестам 6.8.1905. Паводле «Палажэння аб выбарах у Дзяржаўную думу» (апубл. ў той жа дзень), усе выбаршчыкі падзя-

лялися на 3 курыі землеўладальніцкую (памешчыкі), гарадскую (буржуазія) і сялянскую (сяляне, якія вялі ўласную гаспадарку). Для першых 2 курый выбары былі 2-ступеннымі, для сялян — 4-ступеннымі. Прадугледжваўся высокі маемасны і ўзроставы цэнз. Большасць насельніцтва (рабочыя, батракі, жанчыны, асобы маладзей за 25 гадоў, вайскоўцы, навучэнцы і інш.) пазбаўлялася выбарчых правоў. Праект Б д. быў манеўрам, пры дапамозе якога царызм імкнуўся стварыць бачнасць абнаўлення дзярж. ладу, заключыць здзелку з буржуазіяй, што дамагалася вузкацэнзавай прадстаўнічай установы, а таксама прывабіць частку сялянства з разлікам выкарыстаць у сваіх мэтах яго схільнасць да кансерватызму

Абвяшчэнне праекта Б. д. выклікала неадназначную рэакцыю ў грамадстве, садзейнічала размежаванню грамадска-паліт. сіл. У адпаведнасці з 3 асноўнымі паліт. лагерамі вызначыліся 3 тыпы поглядаў на Думу: урадавы — за Думу дзеля захавання самадзяржаўя і задушэння рэвалюцыі, ліберальны — за Думу дзеля абмежавання самадзяржаўя і спынення рэвалюцыі, рэвалюцыйны — супраць Думы, за ліквідацыю самадзяржаўя і дасягнення рэвалюцыі да перамогі На Беларусі, як і ва ўсей імперыі, прадстаўнікі пануючых класаў выказалі гатоўнасць супрацоўнічаць з самадзяржаўем на думскай глебе. Правыя партыі, ліберальная буржуазія і памешчыкі, актыўна рыхтуючыся да выбараў, праводзілі сходы і абмяркоўвалі кандыдатуры дэпутатаў. Сацыял-дэмакр. і народніцкія партыі і арг-цыі (РСДРП, Бунд, эсэры, Усерасійскі сял. саюз, БСГ і інш.) выказаліся за байкот Б. д., мяркуючы выкарыстаць яго для агітацыі за ўсеагульнае выбарчае права і інш. дэмакр. пераўтварэнні. Меншавікі, якія разам з прымірэнцамі мелі значны ўплыў у арг-цыях РСДРП на Беларусі, выступілі за выкарыстанне думскай кампаніі для стварэння органаў рэв. самакіравання. Бальшавікі ажыццяўлялі байкот пад лозунгам падрыхтоўкі ўзбр. паўстання. У ходзе байкоту ў многіх гарадах і мястэчках Беларусі летам і восенню 1905 г. праводзіліся палітычныя сходы, мітынгі і маніфестацыі. На аснове тактыкі байкоту склаўся блок левых сіл. Б. д. змяла *Кастрычніцкая ўсерасійская палітычная стачка 1905*, якая прымусіла цара выдаць Маніфест 17 кастрычніка 1905 з абяцаннем заканадаўчай думы.

*Кр* Законодательные акты переходного времени, 1904—1908 гг 3 изд Спб, 1909, Калинычев Ф И Государственная дума в России Сб документов и материалов М, 1957

*Літ* Ленін У І. Байкот Булыгінскай думы і паўстанне // Творы Т 9 (Полн собр соч Т 11), Яго ж «Яднанне цара з народам і народа з царом» // Тамсама, Яго ж Ігра ў парламентарызм // Тамсама, Король А С Большевики Белоруссии в революции 1905—1907 годов Мн, 1986. С 83—96, Мартюхова М А На переломе революции Обществ.-полит движение в Белоруссии в связи с учреждением Гос думы в России (авг 1905 — июль 1906 г) Мн, 1986 С 13—19. *М А Марцюхова.*

І Р Бумагін.

Ц. П Бумажкоў.

**БУ́ЛЬБАЎЦЫ**, мясц. назва вайскоўцаў *Палескай сечы Украінскай паўстанцкай арміі* (УПА).

**«БУЛЬБЯНЫ́Я» ЗАБАСТО́ЎКІ 1906**, выступленні батракоў і падзёншчыкаў на Беларусі ў рэвалюцыю 1905—07. Пачаліся ўвосень 1906 з прычыны нізкай платы за ўборку бульбы Найб актыўна праходзілі ў Слуцкім, Ігуменскім, Навагрудскім, Віленскім, Ашмянскім, Пружанскім паветах. Бастуючыя патрабавалі павялічыць падзённую плату (з 15—20 да 70 кап.) і не дапускалі да работы сялян, нанятых у інш. паветах. Землеўладальнікі вымушаны былі пайсці на ўступкі. Адначасова паліцыя арыштоўвала кіраўнікоў і актыўных удзельнікаў забастовак. У Віленскі пав. былі прысланы казакі. Пад канец 1906 забастоўкі задушаны.

*Літ* Шабуня К И Аграрный вопрос и крестьянское движение в Белоруссии в революции 1905—1907 гг Мн., 1962, Липинский Л, Лукьянов Е Крестьянское и солдатское движение в Белоруссии (1900—1907 гг) Мн, 1968

**БУМА́ГІН** Іосіф Раманавіч (17 10 1907, Віцебск — 24.4.1945), удзельнік Вял. Айч. вайны, Герой Сав. Саюза (1945) Працаваў майстрам і парторгам цэха на з-дзе «Дальсельмаш» у г. Біраб іджан. У Чырв. Арміі ў 1929—33 і з мая 1941. На фронце з крас. 1945. Камандзір кулямётнага ўзвода лейт. Б. вызначыўся ў баі за г. Брэслаў (Вроцлаў). 24.4.1945 узвод пад яго камандаваннем атакаваў працўніка. Аднак руху наперад сав. воінаў перашкаджаў агонь 2 станковых кулямётаў, замаскіраваных у разбураным будынку. Адзін агнявы пункт ворага Б. закідаў гранатамі, другі закрыў сваім целам, што забяспечыла поспех наступленню. Пахаваны ў г. Вроцлаў (Польшча). Яго імем названы вуліцы ў Віцебску і Гарадку Віцебскай вобл., жылы раен у Біраб іджане.

**БУМАЖКО́Ў** Ціхан Піменавіч (2.7.1909, г. Дальнярэчанск Прыморскага краю — 23.9.1941), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партыз. руху на тэр. Палескай вобл. ў Вял. Айч. вайну. Першы з сав. партызан Герой Сав. Саюза (6.8.1941). Скончыў Мінскі хіміка-тэхналагічны тэхнікум. У 1933—35 у Чырв Арміі Потым працаваў дырэктарам з-да, старшынёй Петрыкаўскага райвыканкома, з 1939 1-м сакратаром Акцябрскага райкома КП(б)Б Палескай вобл. У пач. Вял. Айч. вайны ўзначаліў барацьбу працоўных Акцябрскага р-на супраць ням.-фаш. захопнікаў. 26.6.1941 сумесна з Ф І. *Паўлоўскім* стварыў партыз. атрад «Чырвоны Кастрычнік», які разам з часцямі Чырв. Арміі стрымліваў наступленне гітлераўцаў на р. Пціч. 18.7.1941 разграміў штаб ням. дывізіі ў в. Воземля Акцябрскага р-на, знішчыў каля 80 варожых салдат і афіцэраў, захапіў палонных, 55 броне- і аўтамашын, 27 матацыклаў, 45 коней з павозкамі і грузам, аператыўныя дакументы ням. штаба і інш У пач. жніўня Б адкліканы ў Чырв. Армію і накіраваны на Паўд.-Зах. фронт нач. палітаддзела кав. групы. Загінуў пры выхадзе з акружэння каля с. Оржыца Палтаўскай вобл. Дэп. Вярх. Савета БССР з 1939. У г. п. Акцябрскі яму пастаўлены помнік; яго імем названы калгас у Акцябрскім р-не, чыг ст. на лініі Бабруйск — Рабкор, вуліцы ў гарадах Бабруйск, Мазыр, Мінск, Петрыкаў, у г. п. Акцябрскі, у в. Парэчча Акцябрскага р-на.

*Літ.* Павлов Я С Комиссар Бумажков Мн, 1978

**БУНА́К** Віктар Валяр'янавіч [10(22). 9 1891, Масква — 11 4 1979], рускі антрапалаг. Д-р біялагічных навук (1935), праф. (1925). Засл. дзеяч навукі РСФСР. У 1923—48 заг. кафедры антрапалогіі Маскоўскага дзярж. ун-та. З 1948 у Ін-це этнаграфіі імя М. М Міклухі-Маклая АН СССР Аўтар першага сав. падручніка па антрапалогіі. Распрацаваў методыку асн. прынцыпаў антрапалагічных даследаванняў. Укараніў у антрапалогію гісталагічныя, сералагічныя, біяхімічныя, папуляцыйна-генетычныя, дэмаграфічныя, блізняковыя і пасямейныя метады даследаванняў. Арганізоўваў і прымаў удзел у антрапалагічных даследаваннях у паўд і паўд-зах. раёнах Беларусі (Бабруйск, Бяроза, Глуск, Івацэвічы, Любань, Ляхавічы, Пінск, Слуцк, Старобін, Целяханы, Чырвоная Слабада). Сабраў

даныя па размеркаванні груп крыві на тэр Усх Еўропы, у т. л. Беларусі.

*Тв* Раса как историческое понятие // Наука о расах и расизм М, Л, 1938 (Тр Ин та антропологии, Вып 4), Антропологические исследования в Южной Белоруссии // Антропологический сборник М, 1956 № 1 (Тр Ин-та этнографии, Т 33), Череп человека и стадии его формирования у ископаемых людей и современных рас М, 1959 (Тамсама, Т 49)

*Літ* Нестурх М Ф В В Бунак // Современная антропология М, 1964 (Тр Московского о-ва испытателей природы, Т 14) *Л І Цягака*

**БУНД** (ідыш der Bund саюз), з 1897 Усеагульны яўрэйскі рабочы саюз у Расіі і Польшчы, з 1901 Усеагульны яўрэйскі рабочы саюз у Літве, Польшчы і Расіі, нацыянальная сацыял-дэмакратычная арг-цыя яўрэйскіх рабочых Утварыўся 25—27 9(7—9.10) 1897 у Вільні на з'ездзе прадстаўнікоў яўрэйскіх с-д груп, якія ўзніклі ў некаторых гарадах Беларусі, Літвы і Польшчы. У рабоце з'езда ўдзельнічалі 11 дэлегатаў ад Беластока, Варшавы, Вільні, Віцебска, Мінска і ад рэдакцыі газ. «Арбейтэр Штыме» («Рабочы голас») А. Крэмер, Л. Голдман, А. Мутнік, М Жалудская, Дж Міль, Д. Кац, П Берман, І. Абрамаў, У Касоўскі і інш. Ідэю пра неабходнасць утварэння асобнай экстэрытарыяльнай яўр. рабочай арг-цыі ў Расійскай імперыі сфармуляваў у 1895 Ю Цэдэрбаўм (Мартаў) у сваей прамове на першамайскім сходзе яўр. сацыял-дэмакратаў у Вільні. У якасці гал. аргумента выстаўлялася спасылка на тое, што расійская рабочая партыя, стварэнне якой тады наспявала, не будзе належным чынам абараняць спецыфічныя паліт. і грамадзянскія інтарэсы яўр. рабочых. Неўзабаве Мартаў адмовіўся ад гэтай ідэі як памылковай. Аднак нацыянальна настроеныя яўр сацыял-дэмакраты на віленскім з'ездзе прынялі рашэнне аб утварэнні Б З'езд зацвердзіў назву арг-цыі, выбраў ЦК, прызнаў цэнтр, органамі Б газ. «Арбейтэр Штыме» (у Расіі) і час. «Ідышэр Арбейтэр» («Яўрэйскі рабочы»), які выдаваўся за мяжой

Сац. апору Б. знайшоў сярод шматлікіх рабочых-яўрэяў, якія ў пераважнай большасці былі заняты ў рамеснай і дробнакапіталіст. прамысловасці, гандлі і інш сферах абслугоўвання. Абмежавальныя законы царызму *(мяжа яўрэйскай аселасці,* забарона сялціца ў сельскай мясцовасці ўнутры гэтай мяжы і інш.) спрыялі таму, што ў многіх гарадах і мястэчках Беларусі і Літвы яўрэі складалі большасць насельніцтва У сувязі з адносна слабым развіццем прамысловасці значная іх частка не магла знайсці пастаяннай работы. Сацыяльна адсталае асяроддзе, у якім разгортвалася дзейнасць Б., наклала адбітак на яго ідэалогію, тактыку, формы арганізацыі

Першапачатковай праграмай дзейнасці Б стала напісаная ў 1894 брашура А Крэмера «Пра агітацыю» (выдадзена за мяжой у 1897). У ей абгрунтоўвалася неабходнасць пераходу сацыял-дэмакратаў ад гуртковай прапаганды марксізму да масавай агітацыі сярод рабочых на аснове эканам. патрабаванняў скарачэнне рабочага дня, павелічэнне зарплаты, паляпшэнне ўмоў працы і інш. Паліт. і сацыяліст. агітацыя адкладвалася на няпэўную перспектыву, бо лічылася, што рабочыя, не прайшоўшы школу эканам. барацьбы, не зразумеюць заклікаў да звяржэння царызму, сацыяліст. ідэй. Гэта праграма ў 2-й пал. 1890-х гадоў была пашырана ў беларуска-літоўскіх губернях і за іх межамі. Асн. сродкамі рэалізацыі эканам патрабаванняў былі стачкі, у ходзе якіх да гаспадароў і штрэйкбрэхераў ужываўся тэрор. Для матэрыяльнага забеспячэння стачачнікаў за кошт уступных і членскіх узносаў ствараліся прафесійныя (цэхавыя) *стачачныя касы* — зародкі прафес. саюзаў. Рост стачачнага руху выклікаў неабходнасць аб'яднання цэхавых кас у агульнагар. міжкасавыя сходкі. Прафесійныя стачачныя касы ў канцы 1890—пач 1900-х гадоў складалі арганізацыйную аснову Б

Адразу пасля віленскага з'езда кіраўнікі Б. наведалі с.-д. яўрэйскія арг-цыі Гомеля, Брэста, Гродна і інш. гарадоў з мэтай далучэння іх да Б. Гомельскі сацыял-дэмакратычны камітэт адхіліў іх прапанову *Брэсцкае тайнае таварыства рабочых і рамеснікаў* уступіла ў Бунд, аднак неўзабаве было разгромлена паліцыяй і аднавілася толькі ў 1903 як *Брэсцкі сацыял-дэмакратычны камітэт Бунда* У выніку агітацыі бундаўцаў адбыўся раскол *Гродзенскай рабочай арганізацыі*, большая частка якой уступіла ў Б. (гл. *Гродзенскі сацыял-дэмакратычны камітэт Бунда)*, меншая (каля 100 чал., прыблізна $^1/_3$ частка) выступіла супраць сепаратызму і эканамізму бундаўцаў і аформілася ў асобную арг-цыю на чале з *Гродзенскім рабочым камітэтам,* што пазней далучыўся да Польскай сацыялістычнай партыі (ППС). Не падтрымала прапанову аб уступленні ў Б. значная частка *Мінскай рабочай арганізацыі*, у якой і да гэтага існавала апазіцыя супраць эканамізму мясц. яўрэйскай с.-д. групы. Працаўнікі Б ў Мінску ўтварылі арг-цыю *Рабочай партыі палітычнага вызвалення Расіі* нарадавольскага характару. Бундаўскія к-ты паўсюдна называлі сябе сацыял-дэмакратычнымі.

Кіраўнікі Віленскай яўрэйскай с.-д. арг-цыі як цэнтральнай на Беларусі і ў Літве яшчэ да ўтварэння Б. мелі сувязь з с.-д. арг-цыямі Пецярбурга, Масквы, Кіева, Екацярынаслава, з замежным «Саюзам рускіх сацыял-дэмакратаў» і ўдзельнічалі ў перагаворах аб правядзенні з'езда ў Кіеве ў сак. 1897 з мэтай аб'яднання ў Расійскую с.-д. партыю Аднак, кіруючыся сепаратысцкімі мэтамі, у Кіеў яны не прыехалі і гэтым сарвалі з'езд, а тым часам правялі свой з'езд (віленскі) Толькі пасля ўтварэння Б. яго лідэры зноў уключыліся ў падрыхтоўку агульнарус. з'езда, прычым паставілі за мэту не дапусціць прадстаўніцтва на ім мясц. с.-д. арг-цый (Віцебскай, Гомельскай, Гродзенскай, Мінскай і інш.). Па віне Б. на з'езд не быў запрошаны *Рабочы саюз Літвы*, у якім бундаўцы бачылі моцнага канкурэнта ў барацьбе за ўплыў на мясц. рабочых. Па прапанове Б. *Першы з'езд РСДРП* адбыўся 1—3(13—15) 3 1898 у Мінску, куды да гэтага часу перабраўся ЦК Бунда. Тэхнічнымі пытаннямі арганізацыі з'езда займаліся кіраўнікі *Мінскага сацыял-дэмакратычнага камітэта Бунда* (Я. Гурвіч, П. Берман і інш.) Б. уступіў у РСДРП на агульных падставах з інш арг-цыямі — удзельнікамі з'езда, з правам аўтаноміі ў мясц. справах Ён мог самастойна прымаць рашэнні, якія датычыліся спецыфічных інтарэсаў яўр пралетарыяту Дэлегаты з'езда РСДРП належным чынам не ацанілі нац -экстэрытарыяльную спецыфіку Б., якая дастаткова ясна была акрэслена ў яго назве — Усеагульны яўр рабочы саюз у Расіі і Польшчы. Пытанне пра тэр. межы дзейнасці Б. на з'ездзе не ўзнімалася. Прадстаўнік Б, член яго ЦК Крэмер быў абраны адным з 3 членаў ЦК РСДРП Пасля з'езда ен удзельнічаў у дапрацоўцы і зацвярджэнні тэксту «Маніфеста РСДРП», арганізаваў яго выданне ў Бабруйскай друкарні Б У канцы ліп 1898 Дэпартаменту паліцыі ўдалося арыштаваць увесь ЦК Б., захапіць яго Бабруйскую (цэнтральную) і Мінскую друкарні. З мясц. арг-цый асабліва пацярпела Мінская. Аднак да пач. 1899 дзейнасць Б. аднавілася і пашырылася Скарыстаўшы ідэйна-арганізацыйны крызіс у РСДРП, звязаны з панаваннем эканамізму, Б. у канцы 1890-х гадоў далучыў да сябе на Беларусі Гомельскую, Пінскую і інш. с.-д. арг-цыі У 1901—03 арг-цыі Б. аформіліся ў Ашмянах, Бабруйску, Барысаве, Дзісне, Ігумене (цяпер Чэрвень), Капылі, Магілеве, Мазыры, Оршы, Парычах, Полацку, Слоніме, Смаргоні і інш. гарадах і мястэчках Беларусі У складзе Б. дзейнічалі цэнтралізаваныя рэгіянальныя прафсаюзы шчаціннікаў і прыказчыкаў, яўр. аддзяленне Федэратыўнага прафсаюза гарбароў

У першыя гады 20 ст. Б. паступова перайшоў да паліт. барацьбы. Гэта было звязана з эканам крызісам, што абмежаваў магчымасці эканам рабочага руху, асабліва ў сферы дробнай прам-сці, з рэпрэсіямі царызму ў адносінах да ўдзельнікаў эканам. стачак, а таксама з поспехам прапаганды «паліцэйскага сацыялізму» сярод рамесных рабочых у Мінску, дзе большасць бундаўскіх прафсаюзаў у 1901 перайшла ў зубатаўскую *Яўрэйскую незалежную рабочую партыю* (ЯНРП) Пэўную ролю адыграла і барацьба газ. «Искра» з эканамізмам і зубатаўшчынай Пад уплывам «Искры» V канферэнцыя Б ў 1902 прыняла рашэнне аб перабудове мясц арг-цый, ліквідацыі выбарнасці і ўзмацненні цэнтралізму ў кіраўніцтве імі. З гэтага часу і да восені 1905 Б. як партыя будаваўся «зверху ўніз» ЦК назначаў членаў мясц камітэтаў, апошнія фарміравалі падпарадкаваныя ім структуры. Радавыя члены толькі выконвалі рашэнні вышэйшых устаноў і зусім не ўплывалі на праграмныя, тактычныя і арганіз. пытанні На той жа канферэнцыі Б. прыняў рэзалю

цыю «Аб арганізаванай помсце», якая дапускала індывідуальны паліт. тэрор супраць царскіх чыноўнікаў і паліцыі ў адказ на рэпрэсіі з іх боку. «Арганізаваная помста» Б. па сутнасці нічым не адрознівалася ад эсэраўскага паліт. тэрору і засведчыла яго адыход у пытаннях тактыкі ад асн. прынцыпаў міжнар. сацыял-дэмакратыі.

У перыяд крызісу ў РСДРП, калі Б. фактычна дзейнічаў як самастойная арг-цыя, у яго вярхах узмацніліся сепаратысцкія тэндэнцыі. Адкрыта яны выявіліся на IV з'ездзе Б. (1901, Беласток), у якім удзельнічалі дэлегаты ад Беластока, Бярдзічава, Варшавы, Вільні, Віцебска, Гомеля, Гродна, Дзвінска, Жытоміра, Коўна, Лодзі, Мінска, а таксама з'ездах саюзаў гарбароў і шчаціннікаў. З'езд фактычна прызнаў сіяніцкую ідэю пра існаванне яўрэйскай нацыі, а Б.— адзіным прадстаўніком яўр. пралетарыяту Зыходзячы з гэтых пасылак, з'езд выставіў патрабаванне аб пераўтварэнні РСДРП у «федэратыўнае аб'яднанне сацыял-дэмакратычных партый усіх нацый, што насяляюць Расійскую дзяржаву»; будучы дзярж. лад Расіі вызначаў як «федэрацыю нацыянальнасцей з поўнай нацыянальнай аўтаноміяй кожнай з іх, незалежна ад займаемай тэрыторыі». Але, адзначыўшы небяспеку «распальвання нацыянальнага пачуцця сярод яўр. насельніцтва на шкоду класавай свядомасці пралетарыяту», з'езд адмовіўся выставіць лозунг барацьбы за «поўную нацыянальную аўтаномію» для яўрэяў у Расіі як бліжэйшую задачу Б. і прыняў рашэнне змагацца за адмену абмежавальных законаў. VI з'езд Б. (кастр. 1905) уключыў у праграму патрабаванне нац.-персанальнай аўтаноміі. Тым не менш цэнтр. бундаўская прэса з 1901 выступала за прызнанне Бунда ў якасці адзінага прадстаўніка і выразніка інтарэсаў яўр. пралетарыяту ў Расіі і неабходнасць перабудовы РСДРП на прынцыпах федэралізму, прапагандавала ідэю нац.-персанальнай аўтаноміі для яўрэяў. У асобных публікацыях Б. характарызаваў сябе як самастойную паліт. партыю яўр. пралетарыяту. Газета «Искра» ацэньвала гэтыя з'явы як нацыяналістычна-сепаратысцкія і характарызавала бундаўцаў як непаслядоўных сіяністаў Засвоіўшы зыходную сіяніцкую ідэю пра існаванне яўр. нацыі, Б. разам з тым выступаў супраць *сіянізму* IV з'езд Б. ацэньваў сіянізм як «рэакцыю буржуазных класаў супраць антысемітызму і ненармальнага прававога становішча яўрэйскага народа». Канчатковую мэту сіянізму — набыцце уласнай тэр. для ўсяго яўр. народа і утварэнне яўр. дзяржавы — з'езд прызнаў «утапічнай і неажыццявімай». З гэтых пазіцый у бундаўскай л-ры, у т. л. ў лістоўках мясц. камітэтаў, і вялася крытыка сіянізму, хоць яна была няпоўнай і непаслядоўнай. Сутнасць барацьбы паміж бундаўцамі і сіяністамі, што часам набывала вострыя формы, вызначалася не прынцыповымі мэтамі, а канкурэнцыяй за ўплыў на «яўрэйскую вуліцу». Пад уплывам барацьбы «Искры» супраць эканамізму і тэрарызму да лета 1903 Б. пазбавіўся гэтых ухілаў. Разам з тым прыхільнікі «Искры», сацыял-дэмакраты-інтэрнацыяналісты Беларусі і Літвы ў 1901—03 паспяхова адбівалі націск сепаратысцкіх ідэй, што насаджаліся вярхамі Б., асабліва яго замежным к-там. Мясцовыя к-ты Б. паступова ўзмацнялі і пашыралі агітацыйную і арганізатарскую дзейнасць, звязаную са святкаваннем 1 Мая, распаўсюджвалі палітычныя адозвы, заклікалі на барацьбу з царызмам рабочых усіх нацыянальнасцей, праводзілі забастоўкі салідарнасці з рабочымі іншых гарадоў і рэгіенаў краіны. Выхаванню паліт. свядомасці і інтэрнацыяналізму садзейнічалі штогадовыя агіткампаніі сярод рабочых Беларусі, прысвечаныя гадавінам адмены прыгоннага права (19 лют.), паўстання дзекабрыстаў (14 снеж.), памяці герояў «Народнай волі» (1 сак.) і інш. У выніку рабочы рух на Беларусі набыў паліт. характар. Паліт. стачкі, дэманстрацыі, масоўкі, многімі з якіх кіравалі мясц. камітэты Б., у 1903 ахапілі 28 гарадоў і мястэчак Беларусі. Пад уплывам «Искры» Віцебская, Гомельская, Шклоўская і іншыя арг-цыі Б. ў 1902—03 пачалі агітацыю сярод сялян.

На II з'ездзе РСДРП (1903) дэлегацыя Б. ультыматыўна патрабавала прызнання яго адзіным прадстаўніком яўр. пралетарыяту ў Расіі, неабмежаванай тэр. дзейнасці, перабудовы РСДРП паводле федэратыўнага прынцыпу і інш. Калі з'езд адхіліў гэты ультыматум, бундаўскія дэлегаты, якія да гэтага прагаласавалі за праграму РСДРП, заявілі пра выхад Б. з партыі. Разрыў арганіз. сувязі з РСДРП, імем якой Б. карыстаўся ў 1898—1903, адкрыў магчымасць для ўтварэння на Беларусі і ў Літве інтэрнацыянальных парт. арг-цый, незалежных ад Б. Перадумовы для іх узнікнення падрыхтавалі прыхільнікі «Искры», сацыял-дэмакраты - інтэрнацыяналісты. Пад іх кіраўніцтвам у канцы 1903 і ў 1904 у многіх гарадах і мястэчках Беларусі і Літвы ўзніклі групы РСДРП, якія ўзначальвалі Палескі і Паўночна-Заходні к-ты (гл. адпаведныя арт.) Б. сустрэў іх варожа. У яго друку фальсіфікаваўся сэнс палемікі на II з'ездзе па пытанні аб месцы Б. ў партыі, усяляк апраўдваўся яго выхад з РСДРП, змяшчаліся абвінавачванні РСДРП у вялікадзярж. шавінізме і г. д. Публіцысты Б. абвінавачвалі мясц. арг-цыі РСДРП у расколе рабочага руху, імкнуліся абмежаваць іх дзейнасць асяроддзем хрысціянскіх рабочых. Аднак уплыў інтэрнацыяналістаў на рабочых хутка пашыраўся. У некаторых гарадах камітэты Б. вымушаны былі прызнаць групы РСДРП і супрацоўнічаць з імі. Не адмаўляліся ад гэтага і арг-цыі РСДРП. Праўда, Гомельская і Магілёўская арг-цыі пайшлі на прынцыповыя ўступкі бундаўцам, згадзіўшыся абмежаваць сферу сваёй дзейнасці хрысціянскімі рабочымі, за гэта іх рэзка крытыкавалі на III з'ездзе РСДРП (крас. 1905), які адмяніў адпаведныя пагадненні. У 1904 к-ты Б. вялі агітацыю супраць руска-японскай вайны, арганізавалі кампаніі пратэсту супраць суда над паліт. ссыльнымі ў Якуцку і расстрэлу сходкі рабочых у Беластоку, шэраг іншых рэв. выступленняў. На Амстэрдамскім кангрэсе II Інтэрнацыянала (1904) Б. упершыню быў прадстаўлены асобнай дэлегацыяй.

У рэвалюцыю 1905—07 вядучыя пазіцыі ў рабочым руху на Беларусі і ў Літве занялі арг-цыі РСДРП. Аднак сярод работнікаў дробнай прам-сці і сферы абслугоўвання, у пераважнай большасці яўрэяў, Б пашырыў свой уплыў. У 1905 яго пазіцыі па некаторых пытаннях паліт. барацьбы збліжаліся з бальшавіцкімі. Камітэты Б. ўдзельнічалі ў арганізацыі студзеньскіх выступленняў пратэсту супраць расстрэлу пецярбургскіх рабочых 9(21).1.1905. VI канферэнцыя Б. [11—17.2(24.2—2.3) 1905, Дзвінск] рэкамендавала камітэтам агітаваць нар. масы набываць зброю і вучыцца страляць, ствараць у кожным горадзе ўзбр. атрады, аказваць узбр. супраціўленне пры сутычках з паліцыяй і войскам. Канферэнцыя падкрэсліла значэнне ўсеагульнай паліт. забастоўкі як сродку «выклікаць шырокія масы на вуліцу» і прызнала неабходным у спрыяльныя моманты арганізаваць масавыя ўзбр. дэманстрацыі і весці падрыхтоўку да ўсеагульнага нар. паўстання. Разам з тым яна выказалася за пашырэнне дзейнасці Б. сярод неяўрэйскіх рабочых, стварэнне з прадстаўнікоў усіх с.-д. арг-цый агульных камісій з мэтай забеспячэння адзінства рэв дзеянняў. У 1905 арг-цыі Б. ўдзельнічалі ў падрыхтоўцы і правядзенні першамайскіх забастовак, дэманстрацый і мітынгаў, выступленнях салідарнасці з рабочымі Лодзі, Варшавы, Адэсы, Іванава-Вазнясенска, байкоту Булыгінскай думы, Кастрычніцкай і Снежаньскай паліт стачак Многія выступленні праводзіліся сумесна з арг-цыямі РСДРП, мясц. арг-цыямі ППС у Літве (у Гродне і Брэсце). У кастр.— снеж. 1905 арг-цыі Б. былі прадстаўлены ва ўсіх кааліцыйных саветах і камітэтах, што дзейнічалі ў гарадах Беларусі і Літвы. Разам з тым у 1905 яны нярэдка выступалі і адасоблена, арганізоўвалі асобныя стачкі, дэманстрацыі і мітынгі. У канцы 1905 Б падтрымліваў лозунг узбр. паўстання, але выказваўся супраць удзелу ў Часовым рэв. урадзе. У лістоўцы «Таварышы» (ліст. 1905, на ідыш, рус. і польскай мовах) ЦК Б. заклікаў рыхтавацца да ўзбр. паўстання, збліжацца з салдатамі, весці сярод іх агітацыю, вывучаць тэхн. ўмовы вулічнай барацьбы, ствараць баявыя дружыны. Разам з Пецярбургскім Саветам рабочых дэпутатаў, РСДРП, Партыяй сацыялістаў-рэвалюцыянераў Б. у снеж. 1905 падпісаў адозву «Да ўсяго народа», якая фактычна заклікала да ўсенар. ўзбр. паўстання супраць царызму У ліст. і ў снеж 1905 Віцебскі кааліцыйны камітэт РСДРП і Бунда ў спец. адозвах да рабочых, салдат і ўсіх

грамадзян заклікаў рыхтавацца да ўсеагульнай стачкі і ўзбр. паўстання, але сігнал да яго так і не быў пададзены. У Мінску, Гомелі, Гродне, Брэсце, Мазыры і інш. адбыліся снежаньскія стачкі, але мясц. кааліцыйныя саветы і камітэты, у якіх удзельнічалі і прадстаўнікі Б., не выступілі з заклікамі да ўзбр. паўстання, чакаючы, відаць, зыходу барацьбы ў Маскве і Пецярбургу. У кааліцыйных к-тах Мазыра і Пінска прадстаўнікі Б першымі прапанавалі спыніць снежаньскія стачкі. Разам з іншымі левымі партыямі Б. удзельнічаў у байкоце выбараў у 1-ю Дзярж. думу.

Практыка рэв. барацьбы штурхала Б. да саюзу з РСДРП, якая таксама была зацікаўлена ў аб'яднанні сіл усіх нацыянальных с.-д. партый і арг-цый, што дзейнічалі ў Расіі. У сувязі з гэтым у рабоце IV (Аб'яднаўчага) з'езда РСДРП (крас. 1906) удзельнічала дэлегацыя Б. З'езд сфармуляваў умовы аб'яднання з Б., якія ў жн. 1906 былі зацверджаны VII з'ездам Б. На той час Б. налічваў 274 арг-цыі, да 40 тыс. членаў. Б. прызнаваў сябе с.-д. арг-цыяй яўрэйскага пралетарыяту, не абмежаванай у сваей дзейнасці раеннымі рамкамі. Ён прымаў праграму РСДРП (пазіцыя па нац. пытанні заставалася адкрытай) і лічыў абавязковымі для сябе ўсе пастановы агульнапарт. з'ездаў, але захоўваў свае мясц. арг-цыі і цэнтр. ўстановы. Б. меў права праводзіць з'езды, пасылаць сваіх прадстаўнікоў на з'езды і канфер. РСДРП, у яе ЦК. У гарадах шляхам агульных выбараў, без адрознення нацыянальнасці членаў партыі, павінны былі стварацца адзіныя кіраўнічыя камітэты, якія простай большасцю галасоў вырашалі б усе пытанні, агульныя для мясц. пралетарыяту. Пагаджаючыся з умовамі аб'яднання, выпрацаванымі IV з'ездам РСДРП, VII з'езд Б. разам з тым заклікаў усе свае арг-цыі весці ўнутрыпартыйную барацьбу за перабудову РСДРП на прынцыпах федэрацыі, пацвердзіў сваю вернасць праграме нац.-культурнай аўтаноміі. Фактычнага аб'яднання Б. з РСДРП, за выключэннем цэнтраў, не адбылося агульнагар. камітэты па месцах, у т. л. на Беларусі, не былі створаны

У перыяд найвышэйшага ўздыму рэвалюцыі 1905—07 нізавыя арг-цыі Б., як і іншых рэв. партый, фактычна перайшлі да адкрытай дзейнасці ў масах. Былі паслаблены жорсткія нормы цэнтралізму, уводзіўся выбарны прынцып фарміравання мясц. кіруючых органаў і ўстаноў Б., ствараліся легальныя органы друку. Са снеж. 1905 да лют. 1906 у Вільні на ідыш выдавалася штодзенная газ. «Дэр Векер» («Будзільнік», 40—45 тыс. экз.), а пасля яе закрыцця з лют. 1906 да жн. 1907 — «Фольксцайтунг» («Народная газета») На рус мове ў Вільні легальна выходзілі штотыднеўкі Б. «Наше слово» (№ 1—9, чэрв.— жн. 1906), «Наша трибуна» (№ 1—12, снеж. 1906 — сак. 1907). Легальны друк дапаўняўся нелегальным, у т. л. лістоўкамі. Да вер. 1905 за мяжою працягвалася выданне цэнтр. органа Б. «Арбейтэр Штыме», да студз 1906— органа замежнага камітэта Б. час. «Последние известия» (усяго з 1901 выйшла 256 нумароў). Са студз. 1904 да ліст. 1905 у падп. друкарні ў Расіі выдаваўся час. «Дэр Бунд» (11 нумароў). Мінскі камітэт Б. ў ліст — снеж. 1905 выдаў № 5—10 свайго органа «Дэр Мінскер Арбейтэр» («Мінскі рабочы»). Бабруйскі камітэт Б. ў студз.— чэрв. 1906 выпускаў на рус. мове і ідыш гектаграфаваны інфармацыйны бюлетэнь «Рэвалюцыя ў Расіі».

У гэты час Б. актывізаваў дзейнасць па арганізацыі сваіх прафсаюзаў Так, у Мінску ў ліст. 1905 у бундаўскіх прафсаюзах налічвалася каля 1900 чал. У адрозненне ад мясц. арг-цый РСДРП, якія выступалі за стварэнне беспарт. (нейтральных) інтэрнац. прафсаюзаў, Б. ствараў асобныя прафсаюзы яўр. рабочых, падпарадкаваныя толькі яму. Камітэты Б. ўводзілі ў бюро (праўленне) такіх прафсаюзаў сваіх прадстаўнікоў з правам «вета» — прыпынення выканання любога рашэння, якое супярэчыла праграме і тактыцы Б. Прафсаюзы, што прызнавалі кіраўніцтва Б, адлічвалі на яго карысць да 25 % сваіх даходаў. Раскольніцкая дзейнасць Б. прывяла да таго, што амаль ва ўсіх гарадах і мястэчках Беларусі і Літвы, дзе існаваў рабочы рух, узніклі паралельныя прафсаюзы — бундаўскія і інтэрнацыянальныя. Апошнія, як правіла, знаходзіліся пад уплывам мясц. арг-цый РСДРП Паралельныя прафсаюзы нярэдка варожа ставіліся адзін да аднаго і гэта аслабляла рабочы рух, ускладняла правядзенне эканам. стачак і г. д.

У перыяд адступлення рэвалюцыі Б усе цясней збліжаўся з меншавікамі, падтрымліваў іх лінію на саюз з кадэтамі. У час выбараў у II Дзярж думу мясц камітэты Б. на нац. платформе ўзаемадзейнічалі з выбарчымі блокамі інш. яўрэйскіх партый. Ідэйная барацьба з паліт. сіянізмам фармальна працягвалася, але фактычна Б. станавіўся адной з плыняў сіяніцкага руху, афарбаванай у марксісцкі колер. Пасля задушэння Снежаньскага ўзбр. паўстання рэв. агітацыя Б. рэзка звузілася. Гал. кірункам у яго дзейнасці стала арганізацыя легальнага эканам. і нац.-культурнага рабочага руху ў межах прафсаюзаў У 1906—07 Б. удзельнічаў у правядзенні першамайскіх кампаній, якія прайшлі ў форме мірных агульнагар і групавых забастовак і не суправаджаліся, як раней, вулічнымі дэманстрацыямі і сутыкненнямі рабочых з паліцыяй і войскам Ад актыўных форм барацьбы, а па сутнасці і ад паліт забастовак, Б. фактычна адмовіўся.

Рэпрэсіі ў перыяд рэакцыі выклікалі масавы адліў з Б. дробнабурж. элементаў, згортванне дзейнасці яго мясц арг-цый. Найбольшы спад адзначаны ў 1908. Аб'езд членамі ЦК Б. буйных прамысл. цэнтраў Беларусі і Літвы паказаў, што большасць калектываў распалася, у партыі засталося каля 3 тыс чалавек, якія практычна бяздзейнічалі. У крытычным стане апынулася фінансавае становішча Б Паступленні ў касы ЦК і замежнага камітэта зменшыліся з 141,5 тыс. франкаў у 1907 да 6,5 тыс. ў 1910. Арганізацыйнаму развалу спадарожнічаў ідэйны разброд, рост нацыяналіст. і ліквідатарскіх настрояў. На нарадзе членаў ЦК Б з удзелам прадстаўнікоў 6 найбольш буйных арг-цый у лютым 1908 цэнтральным было пытанне «Аб характары нашай далейшай работы». Вострымі былі дыскусіі пра вынікі рэвалюцыі, асабліваць бягучага моманту, новыя тэндэнцыі ў тактычнай лініі. Частка ўдзельнікаў нарады выступіла з ідэямі трансфармацыі самадзяржаўя ў бурж. манархію, з тактыкай яе канстытуцыйнага ўдасканальвання Адмаўленне ад рэвалюцыі і ад барацьбы за гегемонію пралетарыяту вяло да прызнання толькі легальных форм барацьбы — думскай трыбуны, прафсаюза, культ.-асветных таварыстваў і інш

Бундаўцы-партыйцы стаялі на антыліквідатарскіх пазіцыях і лічылі, што далейшая работа партыі павінна ісці пад знакам падрыхтоўкі да новага рэв. выбуху. На V Агульнарасійскай канферэнцыі РСДРП (1908) па арганіз. пытанні бундаўцы галасавалі за прапанаваную бальшавікамі рэзалюцыю, якая звяртала асаблівую ўвагу на неабходнасць стварэння і ўмацавання нелегальных парт арг-цый, выкарыстання для работы сярод працоўных розных легальных таварыстваў. Дэлегацыя Б. падтрымала і рэзалюцыю «Аб сучасным моманце і задачах партыі». На такія пазіцыі лідэраў Б ўплываў шэраг фактараў, у т. л. блок бальшавікоў з бундаўцамі-партыйцамі, даволі высокі ўзровень ар'ергардных баеў пралетарыяту Беларусі і Літвы, жорсткі курс царызму на задушэнне легальнага руху ў мяжы яўрэйскай аселасці і інш

Збянтэжанасць яўр. рамеснай масы прайшла параўнальна хутка. На змену тым, хто пакінуў арг-цыі Б, прыйшло маладое папаўненне з рабочых Пэўны уклад у ажыўленне работы на месцах зрабілі і бундаўскія функцыянеры, якія ў 1908—09 наведалі шэраг населеных пунктаў у мяжы аселасці. У выніку да пач. новага рэв ўздыму ў Расіі дзейнічала 12 арг-цый Б., у якіх налічвалася 13 504 члены, у т. л. ў Вільні 800, Пінску 500, Дзвінску 500, Гродне 450 чалавек. У Віцебску ў вер. 1908 праведзены арганіз. сходы, створаны камісіі фінансавая і па рабоце сярод навабранцаў, сабраны і адпраўлены ў ЦК сродкі на выданне нелегальнай газеты Арг-цыя ў Бабруйску не праставала існаваць, але больш як год не вяла ніякай работы Па стане на жн. 1910 членскія ўзносы плацілі 315 чалавек. У канцы 1908 камітэты Б. былі адноўлены ў Гродне, у студз 1909— у Пінску, у маі — у Гомелі і інш. Да восені 1910 арг-цыі Б распачалі работу ў Брэсце, Мінску і Смаргоні, невялікія групы — у Барысаве, Ваўкавыску, Магілеве, Мсціславе, Свіслачы, Скідалі, Слоніме. Агульная колькасць членаў арг-цый Б. на Беларусі ў 1910 перавышала 4 тыс, а да пач. 1914 колькасць яго арг-цый вырасла да 40

(10 у губ. і 16 у павятовых гарадах, 14 у мястэчках).

У перадваенныя гады лідэры Б. паступова зблізіліся з меншавікамі. Рэвізія рашэнняў V Агульнарасійскай канферэнцыі РСДРП пачалася фактычна адразу пасля сканчэння яе работы. VIII канферэнцыя Б. (кастр. 1910, 12 дэлегатаў ад арг-цый 10 гарадоў, у т л Бабруйска, Гомеля, Гродна, Пінска; усяго 25 удзельнікаў, у т. л. 3 з дарадчым голасам) заклікала Б. сканцэнтраваць увагу на пытаннях, што абмяркоўваюцца ў Дзярж. думе, папулярызаваць выступленні сацыял-дэмакратаў, нац. патрабаванні яўрэяў і барацьбу за іх ажыццяўленне. Галоўнае месца ў рабоце занялі пытанні пра абарону правоў яўр. абшчыны, мовы, суботняга адпачынку. Кіраўнікі Б. адмовіліся ад удзелу ў VI (Пражскай) канферэнцыі РСДРП (1912), павялі барацьбу за зрыў яе рашэнняў. Ужо на нарадзе сацыял-дэмакратаў 29.2(13.3) 1912, скліканай намаганнямі Б., была прынята рэзалюцыя, якая кваліфікавала канферэнцыю як узурпацыю бальшавікамі «партыйнага сцяга», заклікала ўсе арг-цыі ў Расіі і за мяжой пратэставаць супраць учыненага перавароту і не прызнаваць выбраныя ею парт. цэнтры. IX канферэнцыя Б. (чэрв. 1912, 19 дэлегатаў, з якіх 2 з дарадчым голасам, ад арг-цый 23 гарадоў і мястэчак, у т. л. Гродна, Мінск, Ваўкавыск, Слонім, Брэст, Бабруйск, Пінск, Гомель, Свіслач, Скідаль, Ружаны) зняла патрабаванні дэмакр рэспублікі і канфіскацыі памешчыцкіх зямель. Зацверджаная на ей платформа прадугледжвала: барацьбу за адказнае міністэрства, свабоду кааліцый, скасаванне надзвычайнага становішча, шырокія грамадз. правы, мясц. і гар. самакіраванне, ліквідацыю мяжы аселасці і нац. раўнапраўе, пашырэнне рабочага заканадаўства на рамеснікаў. Асн. рашэнні гэтай канфер. паўтарыла паліт. платформа меншавізму, зацверджаная ў 1912 т. зв. «жнівеньскім блокам». У раздзеле па нац. пытанні сцвярджалася, што бундаўская тэорыя культурна-нац аўтаноміі не пярэчыць праграме расійскай сацыял-дэмакратыі. У залежнасці ад змены паліт. праграм мяняліся адносіны вярхоў Б. і да рэв. барацьбы яўрэйскіх рабочых. Прыкладна да сярэдзіны 1908 ЦК і мясц. арг-цыі прымалі актыўны удзел у кіраўніцтве стачкамі гарбароў, шчаціннікаў, панчошніц і інш. атрадаў працоўных, наладзілі некалькі буйных паліт. выступленняў. У далейшым Б. фактычна адмовіўся ад удзелу ў агульнарус. выступленнях. За ўвесь перыяд новага рэв уздыму бундаўцы не правялі на Беларусі ніводнай акцыі ў падтрымку паліт. кампаній рабочага класа Расіі, не знайшлі водгуку нават Ленскі расстрэл, гадавіны «Крывавай нядзелі» (9 студз.), 1 Мая і інш падзеі, якія адзначаліся па ўсей краіне. Асн. формай барацьбы Б былі «петыцыйныя кампаніі», або збор подпісаў пад рознымі зваротамі ў Дзярж. думу з просьбамі дазволіць свабоду прафсаюзам, рабочым т-вам і справаводства ў іх весці на яўр. мове, адмяніць мяжу аселасці, нац. раўнапраўя, вызвалення арыштаваных членаў с -д фракцыі і інш. Ды і такіх «петыцый» на сходах прымалася нязначная частка. Пралетарыят прамысл. цэнтраў сустрэў «петыцыйную кампанію» негатыўна, заяўляючы, што патрэбны больш радыкальныя меры. ЦК Б. сканцэнтраваў у сваіх руках і кіраўніцтва прапагандысцкімі гурткамі рамеснікаў, распрацоўваў іх праграмы, падбіраў дакладчыкаў. Асн. намаганні былі скіраваны на тое, каб іх дзейнасць не выходзіла за рамкі пытанняў, звязаных з працай с.-д фракцыі і яўр. рэчаіснасцю.

Аналіз дзейнасці бундаўскага падполля сведчыць, што яно не мела рэв. характару і мала чым адрознівалася ад легальных арг-цый Пераважалі палітыка-культурна-асветніцкая прапаганда, палітэканомія, гісторыя паліт. вучэнняў, анатомія, прыродазнаўства, пытанні прафс. руху, яўр мовы і культуры, прававога становішча яўрэяў і інш. Такім чынам, класавыя мэты пралетарыяту Б. адцясніў на задні план. Эканамічная барацьба вялася адасоблена Рабочыя яўрэйскай нацыянальнасці штучна проціпастаўляліся ўсім астатнім, што яскрава праявілася ў прафс. руху. Так, у 1913 пад кіраўніцтвам Б дзейнічалі 26 легальных і 65 нелегальных прафсаюзаў яўрэйскіх рабочых

З пачаткам 1-й сусв. вайны Б. фактычна адмовіўся ад антыўрадавай дзейнасці. ЦК Б. разам з Краявым к-там СДКПіЛ і ЦК ППС у ліп. 1914 выдалі сумесную адозву «Да пралетарыяту Польшчы», у якой выкрывалі сапраўдныя прычыны і імперыяліст. характар вайны, заклікалі пралетарыят ваюючых дзяржаў да барацьбы за звяржэнне капіталіст. ладу. У ліст. 1914 на пашыраным пасяджэнні ЦК Б. сфармулявана афіц. пазіцыя пра адносіны да вайны і прыняты маніфест «Аб вайне», у якім вызначаны антымілітарысцкія дэмакр. патрабаванні. У далейшым, калі пачалося масавае высяленне яўрэяў з прыфрантавой паласы, ЦК Б. страціў сувязь з мясц. арг-цыямі і распаўся. Уцалелі арг-цыі ў Вільні, Гомелі, Бярдзічаве і Кіеве. Але і яны страцілі сувязі паміж сабой, адмовіліся ад рэв. дзейнасці. Толькі ў Гомелі 18 крас. (1 мая) 1915 у некалькіх майстэрнях былі распаўсюджаны першамайскія адозвы. Дзейнасць бундаўцаў у прыфрантавой зоне была абмежавана арганізацыяй дабрачыннай дапамогі высяленцам, бежанцам і беспрацоўным Пазней, адчуваючы нарастанне антываен. настрояў, Б., каб захаваць свой уплыў, таксама мусіў «лявець». Канферэнцыя Б. (чэрв. 1915, Кіеў) з удзелам дэлегатаў ад арг-цый Бярдзічава, Жытоміра, Кіева, Кременчуга, Мазыра прызнала імперыяліст. характар вайны і заявіла, што «пралетарыят усіх краін павінен заняць да гэтай вайны адносіны рэзкага пратэсту і выкарыстаць яе дзеля ўмацавання сваіх класавых пазіцый». Канферэнцыя выступіла супраць удзелу рабочых у ваеннапрамысловых к-тах і абаронных мерапрыемствах Найважнейшымі былі прызнаны 2 лозунгі—неадкладнае звяржэнне манархіі і барацьба за мір Свае надзеі на дэмакр. рэспубліку канфер. звязала з с-д. фракцыяй Дзярж. думы. Вясной 1916 на нарадзе пры ЦК Б., у якой удзельнічалі прадстаўнікі арг-цый з 7 гарадоў, верх узялі абаронцы.

Пасля *Лютаўскай рэвалюцыі 1917* колькасць арг-цый Б. стала хутка павялічвацца. На Беларусі спачатку амаль усе яны ўваходзілі ў аб'яднаныя сацыял-дэмакр. арг-цыі («аб'яднанкі») пры захаванні пэўнай аўтаномнасці. У сак. 1917 ЦК Б. аднавіў выданне газ. «Арбейтэр Штыме». Праграма і тактыка Б. па асн. пытаннях рэвалюцыі супадалі з меншавікамі. X канферэнцыя Б. [1—6(14—19).4.1917, Петраград, 63 дэлегаты з рашаючым і 20 з дарадчым голасам з 33 гарадоў, у т. л. Бабруйска, Віцебска, Гарадка, Гомеля, Магілёва, Мінска і Слуцка] у сваіх рэзалюцыях выказалася супраць удзелу сацыял-дэмакратаў у кааліцыйным Часовым урадзе, за скліканне Устаноўчага сходу На ей была вызначана сутнасць нац.-культурнай аўтаноміі для яўрэяў і метады яе ажыццяўлення, прыняты рэзалюцыі: пра ўдзел у рабоце агульнарас. яўрэйскага з'езда, аб парт. прэсе, адносінах да яўрэйскіх дэмакр партый, правах яўр. мовы, адмене нац. абмежаванняў і інш. Выбраны новы склад ЦК, з удзелам якога пазней сфарміраваны абл. камітэты Б. Бундаўцы падтрымлівалі ўнутр. і знешнюю палітыку Часовага ўрада, удзельнічалі ў стварэнні мясц. Саветаў, дэмакратызаваных органаў самакіравання, к-таў грамадскай бяспекі, харчовых к-таў і інш. У крас.—чэрв. 1917 адбывалася фарміраванне адасобленых ад «аб'яднанак» арг-цый Б., стварэнне іх кіруючых органаў Паўн -Зах. абласны к-т Б., які размяшчаўся ў Мінску, аформіўся ў пач. мая 1917 у складзе 7 членаў. Віцебская губ. канферэнцыя Б. [12—13(25—26).5.1917, удзельнічалі 8 мясц. арг-цый] прапанавала ствараць аб'яднаныя к-ты з прадстаўнікоў усіх с.-д. плыняў, вызначыла адносіны да органаў мясц. самакіравання і тактыку ў выбарчай кампаніі, патрабавала перадаць у падпарадкаванне Б. яўр. абшчынныя ўстановы (бальніцы, аптэкі, дабрачынныя суполкі), выбрала губ. к-т. На Магілёўскай губ канфер. Б. [25 5 (7.6).1917, Гомель, 18 дэлегатаў ад 16 парт. арг-цый Магілеўскай і Смаленскай губ. прадстаўлялі 2390 членаў] таксама быў ныбраны губ. камітэт. На I канфер. Б. Паўн.-Зах. краю [1—3(14—16).6. 1917, Мінск, 38 дэлегатаў ад 26 арг-цый Віцебскай, Магілеўскай, Мінскай і Смаленскай губ. прадстаўлялі 7657 членаў] былі абмеркаваны пытанні. пра паліт момант, выбары ў органы самакіравання, аб'яднанне з РСДРП, парт. прэсу, прафсаюзы, арганізацыйнае; выбраны абласны к-т з 7 чал., месцам яго размяшчэння вызначаны Мінск. У 1917 у Паўн.-Зах абласную арг-цыю Б. ўваходзіла каля 40 арг-цый — у Бабруйску, Барысаве, Бешанковічах, Веліжы, Ветцы, Віцебску, Гарадку, Гомелі, Горках, Дзвінску, Дры-

се, Дуброўне, Жлобіне, Ігумене, Калінкавічах, Капылі, Лёзне, Магілёве, Мазыры, Мінску, Навабеліцы, Оршы, Петрыкаве, Полацку, Прапойску (цяпер Слаўгарад), Рагачове, Рэчыцы, Слуцку, Чачэрску, Шклове, Янавічах і інш. Ёсць падставы меркаваць, што такія арг-цыі дзейнічалі яшчэ ў 22 населеных пунктах. 20 арг-цый мелі сваіх прадстаўнікоў у мясц. Саветах рабочых і салдацкіх, 1— сялянскіх дэпутатаў, 13 у органах гар. і сельскага самакіравання, 5 былі аб'яднаны і 6 наладзілі цесныя сувязі з мясц. арг-цыямі РСДРП. Бундаўцы разам з сацыял-дэмакратамі розных плыняў займалі пануючае становішча ў прафсаюзах, праз якія Б. імкнуўся праводзіць сваю палітыку, ідэалогію і тактыку. У 1917 Паўн.-Зах. абласны к-т Б. выдаваў газ. «Дэр Векер».

У час чэрвеньскага крызісу 1917 Паўн.-Зах. краявы, губернскія і мясц. камітэты Б. падтрымалі Часовы ўрад. Пры выбарах органаў мясц. самакіравання ў ліп.— жн. 1917 бундаўцы сумесна з эсэрамі і меншавікамі выступілі адзіным «сацыялістычным блокам», які амаль паўсюдна набраў найбольшую колькасць галасоў. 6—7(19—20) жн. адбылася I Мінская губ. канферэнцыя Б. Яна арыентавала на актыўны ўдзел яўрэяў у выбарах земстваў, прапаганду праграмы Б., на ўступленне ў блок з аб'яднанай РСДРП у час выбараў ва Устаноўчы сход пры ультыматыўнай умове, што ў сумесным спісе 1-е месца будзе належаць Б. У губ. камітэт выбраны па 2 прадстаўнікі ад Бабруйскай і Мінскай арг-цый, па 1 ад астатніх арг-цый. У жн. адбылася II канферэнцыя Віцебскай губ. арг-цыі Б., на якой было прадстаўлена 10 мясц. к-таў (больш за 2 тыс. членаў).

У пач. жн. 1917 ЦК Б. надрукаваў зварот «Да ўсіх арганізацый» з заклікам правесці выбары дэлегатаў на аб'яднаўчы з'езд РСДРП асобна ад меншавікоў. На гэтым з'ездзе [19—26.8(1—8.9). 1917, Петраград, каля 40 дэлегатаў (з Беларусі 7) ад 20 тыс. членаў Б.] дэлегаты-бундаўцы падзяляліся на інтэрнацыяналістаў (каля 15) і абаронцаў. Кожны дэлегат меў права ўвайсці ў любую фракцыю з'езда, але пры галасаванні па пытаннях нац.-культ. аўтаноміі і арганізацыйным усе павінны быць заадно. З'езд даў Б. права мець сваіх прадстаўнікоў ва ўсіх мясц. к-тах і ў ЦК РСДРП. На Дзярж. маскоўскай нарадзе ў жн. 1917 ад Б. было 18 дэлегатаў, у т. л. з Віцебскай і Магілёўскай арг-цый. У час карнілаўшчыны Б. выступіў у падтрымку А. Ф. Керанскага, супраць перадачы ўлады Саветам. Восенню 1917 у Б. налічвалася 30 тыс. членаў. У той жа час узмацніліся разыходжанні па карэнных пытаннях рэвалюцыі, з'явіліся фракцыі ў Бабруйскай, Віцебскай, Гомельскай, Мінскай і інш. арг-цыях. Уплыў Б. сярод яўр. рабочых і рамеснікаў знізіўся. У ліп.— кастр. 1917 бундаўцы стварылі свае фракцыі ў шэрагу Саветаў і органаў самакіравання, удзельнічалі ў фарміраванні атрадаў самааховы ў час яўр. пагрому. На II Усерас. з'езд Саветаў ад Беларусі быў выбраны ад Віцебскага Савета бундавец А. Б. Караўкін. Разам з меншавікамі і эсэрамі бундаўцы пакінулі з'езд.

Правыя бундаўцы варожа аднесліся да Кастр. рэвалюцыі, левыя былі схільны падтрымаць яе, значная частка вагалася. Гомельскі к-т у сваёй рэзалюцыі ад 29.10(11.11).1917 адзначыў, што паўстанне ў Петраградзе пагражае зрывам Устаноўчага сходу, вядзе да грамадз. вайны, садзейнічае контррэвалюцыі. Для мірнага выхаду з крызісу ён прапанаваў стварыць аднародны ўрад з прадстаўнікоў усіх плыняў рэв. дэмакратыі, заклікаў згуртавацца вакол *Гомельскага камітэта рэвалюцыйнай аховы* і перайменаваць яго ў «Камітэт ратавання рэвалюцыі». У Мінску бундаўцы спачатку выйшлі са складу выканкома Савета, а 2(15) ліст. разам з меншавікамі і правымі эсэрамі пакінулі Савет, актыўна падтрымлівалі мясц. «Камітэт ратавання рэвалюцыі Зах. фронту», мелі ў ім сваіх прадстаўнікоў. Аднак бундаўцы-інтэрнацыяналісты на сваім сходзе 3(16) ліст. не згадзіліся з адклікannем бундаўскай фракцыі з Мінскага Савета. Сумеснае пасяджэнне членаў Віцебскай «аб'яднанкі» і мясц. арг-цыі Б. 2(15) ліст. асудзіла паўстанне ў Петраградзе і патрабавала склікаць Устаноўчы сход у вызначаны тэрмін, стварыць аднародны дэмакр. ўрад. Нарада пры ЦК Б. 20.11(3.12).1917 расцаніла Кастр. рэвалюцыю як справу «неарганізаваных і несвядомых мас», якія пайшлі за бальшавікамі, і прыйшла да высновы, што «дэмагагічныя заклікі бальшавікоў цяпер не могуць быць ажыццёўлены, яны прывядуць пралетарыят да расчаравання, адчаю, да поўнага разгрому і страты даверу да ідэі сацыялізму». Нарада заклікала не прызнаваць сав. улады, змагацца за пераход улады да ўсёй рэв. дэмакратыі.

Кастр. рэвалюцыя ўзмацніла ідэйны разброд у радах Б. У ліст. 1917 з яго Бабруйскай арг-цыі вылучыліся левыя (каля 50 чал.) і стварылі свой камітэт, які наладзіў цесную сувязь з мясц. бальшавікамі. Узмацнелі левыя фракцыі ў Віцебскай, Гомельскай, Магілёўскай, Мінскай і інш. арг-цыях Б., але ў цэлым уплыў яго сярод яўр. насельніцтва падаў. У час выбарчай кампаніі ва Устаноўчы сход бундаўцы арганізавалі на Беларусі каля 200 мітынгаў, аднак ад іх агульнага з меншавікамі спіса ў 4 выбарчых акругах Паўн.-Зах. вобласці і Зах. фронту не прайшло ніводнага дэлегата. У снеж. 1917 адбыўся VIII з'езд Б., на якім выявіліся разыходжанні поглядаў на многія праблемы. Са справаздачы Паўн.-Зах. камітэта Б. відаць, што ён у гэты час аб'ядноўваў 102 арг-цыі, 18 700 членаў. Б. гэтага рэгіёна меў 180 прадстаўнікоў у гар. думах. Па пытанні пра дзярж. лад Расіі частка дэлегатаў выступала за федэрацыю, большасць сцвярджала, што гэта прывядзе да сепаратызму, пашкодзіць кансалідацыі класавых сіл пралетарыяту Расіі. У сувязі з роспускам бальшавікамі 5(18).1.1918 Устаноўчага сходу бундаўцы разам з іншымі апазіцыйнымі сіламі ўдзельнічалі ў правядзенні паліт. забастоўкі ў Віцебску. Супраць разгону Устаноўчага сходу пратэставалі многія інш. арг-цыі Б.

На тэр. Беларусі, акупіраванай у 1918 германскімі войскамі, дзейнасць бундаўскіх арг-цый аслабела ці спынілася

Неадназначнай была пазіцыя Б. да абвяшчэння *Беларускай Народнай Рэспублікі* (БНР) 9.3.1918. Спачатку ён разам з бел. нацыянальнымі і агульнарасійскімі паліт. партыямі падтрымаў ідэю склікання Усебел. краявога ўстаноўчага з'езда (сойма) і ўтварэння БНР. Яго прадстаўнікі ўвайшлі ў кіруючыя органы БНР — Раду і Нар. сакратарыят. Але па меры ўзмацнення супрацоўніцтва Рады БНР з германскімі акупац. уладамі пазіцыя Б. змянялася. Каб захаваць свой уплыў на масы, бундаўцы негатыўна паставіліся да супрацоўніцтва з акупантамі, выступілі супраць Трэцяй устаўнай граматы БНР, якая абвяшчала пра разрыў дзярж. сувязей Беларусі з Расіяй. Кіраўніцтва Б. разглядала ўтварэнне БНР як фактар, што можа прывесці да ўціску яўрэяў. У маі 1918 кіраўніцтва Б. абвінаваціла Раду БНР у скажэнні «ідэі самавызначэння беларускага народа». У маі 1919 Б. выступаў за ўваходжанне БНР у склад Расійскай федэрацыі і разглядаў гэта як пачатак стварэння федэрацыі вольных народаў Расіі. Летам і восенню 1918 у сувязі з падтрымкай працоўнымі яўрэямі сав. улады ўзмацніўся працэс дыферэнцыяцыі Б. Новы крок улева зрабіла XI канфер. Б. (16—22.3.1919, Мінск), якая прызнала сав. ўладу і заклікала падтрымліваць яе, актыўна змагацца супраць унутр. і знешняй контррэвалюцыі. Аднак Б. заявіў, што ў дачыненні да бальшавікоў ён застаецца «партыяй апазіцыі».

Прадстаўнікі Б. ўваходзілі і ў вышэйшыя органы ўлады Сав. Беларусі. Тры яго члены з рашаючым голасам і 1 з дарадчым былі выбраны ў склад ЦВК на *Другім Усебеларускім з'ездзе Саветаў* (1920). У 1919 у выканком Віцебскага гар. Савета ўваходзілі 2, у Мінскі Савет — 13 бундаўцаў. Дзеля кампрамісу з левымі бундаўцамі ў студз. 1919 у складзе *Камуністычнай партыі Беларусі* была створана *Яўрэйская камуністычная партыя Беларусі*, якая праз месяц была перайменавана ў Яўрэйскі камуністычны саюз.

У крас. 1919 бундаўскі ЦК аб'явіў мабілізацыю членаў партыі ў Чырв. Армію, заклікаў яўрэйскі пралетарыят стаць на абарону рэвалюцыі і Сав. улады. Была створана яўрэйская ваен. секцыя, якая выдавала газ. «Чырвоная Армія», адпраўляла бундаўцаў на фронт.

У чэрв. 1919 ЦК Кампартыі Літвы і Беларусі прыняў пастанову пра роспуск Яўрэйскага камуніст. саюза, дзейнасць якога вяла, на думку бальшавікоў, да арганіз. і ідэйнага адасаблення яўрэйскага пралетарыяту; мясцовыя

арг-цыі саюза было прапанавана рэарганізавацъ у секцыі пры бальшавіцкіх к-тах За 1918—19 колькасны склад арг-цый Б. моцна скараціўся (напр., Гомельскі к-т зменшыўся ў 4 разы). На XII канфер. (крас. 1920, 61 дэлегат ад 29 арг-цый) пад націскам правячай бальшавіцкай партыі левыя бундаўцы прынялі рашэнне пра выхад Б. з партыі меншавікоў, прызнанне праграмы РКП(б) і далучэнне да Камінтэрна. Імкнучыся захаваць аўтаномію, яны дамагаліся надаць Б. функцыі яўрэйскай секцыі пры агітпрапе ЦК РКП(б), але безвынікова. XIII надзвычайная канфер. Б (крас. 1920) пасля цяжкай дыскусіі заявіла пра далучэнне яго да РКП(б) на ўмовах Камінтэрна Правыя бундаўцы, якія не прызналі гэта рашэнне, на сваей канфер. (крас. 1920, Віцебск) аб'ядналіся ў Б. сацыял-дэмакратычны. Яго лідэры (Р. Абрамовіч, У. Касоўскі, В. Медэм, Г Арансон) усе больш эвалюцыяніравалі ўправа і занялі выразна антысав. пазіцыі. Левае крыло замежных арг-цый с д. Б. на чале з Абрамовічам выступала за негвалтоўнае адхіленне бальшавікоў ад улады

У пач. 1920-х гадоў Б. у сав. краіне знік з паліт арэны. У 1921 на канфер. беспарт рабочых у Мінску з 320 удзельнікаў было 292 камуністы, 26 бундаўцаў, у Магілеве бундаўцаў не было зусім. У 1922 у Віцебску на рабочай канферэнцыі з с.-д. Б. выйшла вял. група членаў, не згодных з палітыкай яго ЦК У 1923 самаліквідаваліся найбуйнейшыя арг-цыі Б. ў Віцебску і Гомелі, многія іх члены ўступілі ў бальшавіцкую партыю. Распадам і самаліквідацыяй закончылі свае існаванне астатнія арг-цыі Б У 1930-я гады беспадстаўна былі рэпрэсіраваны б. бундаўскія лідэры А Вайнштэйн, М. Рафес, М Фрумкіна і інш

У *Заходняй Беларусі,* што паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 адышла да Польшчы, Б. існаваў да 1939 як самастойная партыя, меў уплыў иа яўр рабочых і рамеснікаў у гарадах і мястэчках, дзейнічалі яго гар., раенныя і акруговыя к-ты. У асн. стаяў на пазіцыях легальнай парламенцкай дзейнасці. Яго гал. патрабаванне — дазволіць яўр. насельніцтву мець нац.-культ аўтаномію. Ставіліся і інш. бурж.-дэмакр. патрабаванні. У адносінах да Зах Беларусі Б. у цэлым падтрымліваў патрабаванне аб яе самавызначэнні, але не даводзіў яго да права на аддзяленне ад Польшчы. У 1922 левае крыло Б., што аб'ядноўвала каля $^{1}/_{3}$ членаў і стаяла на радыкальных сацыялст. пазіцыях, выдзелілася ў самастойную арг-цыю — Камуністычны Бунд (Камбунд), які ў 1923 увайшоў у склад Кампартыі Польшчы. Б. зблізіўся з Польскай сацыяліст партыяй (ППС), з 1930 уваходзіў у склад Сацыяліст рабочага Інтэрнацыянала, выступаў за арганіз. самастойнасць яўр. рабочых і на гэтай падставе ствараў прафсаюзы паводле нац. прыкметы Такая палітыка адцягвала яўр. рабочых ад сумеснай з польскімі, бел. і укр. рабочымі барацьбы за агульныя сац. і паліт. інтарэсы, раз'ядноўвала іх сілы. Арг-цыі Б і яго друкаваны орган газ. «Фолькс-цайтунг» вялі ідэалаг. барацьбу супраць Кампартыі Польшчы, КПЗБ, КПЗУ, змагаліся супраць прафсаюзнага актыву, які ішоў за камуністамі. У 2-й пал. 1920-х — 1930-я гады ў шэрагу гар. і акруговых арг-цый Б. дзейнічала левае крыло, якое стаяла на класавых сацыялст пазіцыях. Частка яго членаў знаходзілася пад уплывам КПЗБ, а асобныя групы самастойна выстаўлялі радыкальныя патрабаванні.

У 1933— пач. 1935 Б. імкнуўся не дапусціць утварэння адзінага рабочага фронту, які прапанавала кампартыя На VI з'ездзе (люты 1935) Б. выказаўся за стварэнне «арганічнага адзінства рабочага руху». У прынятай з'ездам «Дэкларацыі прынцыпаў» адзначалася неабходнасць «пазітыўных адносін з боку міжнароднага рабочага класа да Савецкага Саюза» з той умовай, каб такіх жа адносін прытрымліваўся і Сав Саюз да сацыялст. руху. На з'ездзе патрабаванне нац.-культ. аўтаноміі было заменена новым заклікам — агульнай аўтаноміі яўр. насельніцтва ў культурным, эканам. і паліт жыцці У 2-й пал 1935 пад націскам антыфаш. нар. руху, патрабаванняў рабочых і нізавых арг-цый Б. яго кіраўніцтва пайшло на ўстанаўленне адзінства дзеянняў з інш партыямі, у т. л камуністамі. Прадстаўнікі Б ўваходзілі ў склад адзінафрантавых камітэтаў і камісій, удзельнічалі ў арганізацыі сумесных эканам і паліт. выступленняў рабочых і гар беднаты (забастовак, дэманстрацый, мітынгаў), што ў 1936 — 1-й пал 1937 праходзілі пад лозунгам адзінага рабочага і антыфаш. нар. фронту і былі накіраваны супраць фашызму і падрыхтоўкі новай вайны Аднак ваганні і непаслядоўнасць Б. стрымлівалі ўдзел яўр. рабочых і рамеснікаў у барацьбе за свае сац. інтарэсы. У 2-й пал. 1937 Б. адмовіўся ўдзельнічаць у адзіным фронце барацьбы сумесна з КПП і КПЗБ. Адной з асн. прычын адмовы былі паліт рэпрэсіі ў СССР, якія Б асуджаў. Нягледзячы на антысіяніцкую фразеалогію, у практычнай дзейнасці (правядзенне выбараў, эканам. акцый) Б. часта выступаў сумесна з *«Паалей Цыенам»* Пад яго ўплывам знаходзіўся шэраг кааператыўных, культ і спарт арг-цый, у т л. «народныя універсітэты» (ахоплівалі пераважна моладзь), яўр. школьная арг-цыя, банк яўр. кааператываў, арг-цыя яўр. жанчын-работніц. Пад арганіз. і паліт. кіраўніцтвам Б. знаходзілася маладзёжная арг-цыя Югенд-Бунд «Цукунфт». Б. спыніў існаванне на тэр. Зах. Беларусі ў канцы 1939 пасля ўз'яднання яе з БССР, калі дзейнасць паліт. партый, акрамя камуністычнай, была забаронена сав. урадам

Гістарыяграфія Бунда. Першыя публікацыі па гісторыі Б з'явіліся ў пач. 1900-х гадоў і належалі самім бундаўцам (Гісторыя яўрэйскага рабочага руху ў Расіі і Польшчы. Жэнева, 1901, і інш.). Яны мелі апалагетычны характар, прапагандавалі арганіз. прынцыпы Б., яго дзейнасць і тактыку. Пры гэтым роля Б. ў развіцці рабочага руху на Беларусі, у Літве і Расіі перабольшвалася, дзейнасць яго ідэалізавалася, замоўчваліся ўхілы Б.— эканамізм, сепаратызм, нацыяналіст. тэндэнцыі, тэрарызм. Не асвятляліся рэв выступленні неяўрэйскага пралетарыяту, скажалася дзейнасць іншых рэв партый і арг-цый. Апалагетычныя пазіцыі ў адносінах да Б займала меншавіцкая гістарыяграфія рабочага і с-д руху [Грамадскі рух у Расіі на пачатку XX ст Спб., 1909. Т 1, 1914 Т 3, кн. 5, Акімаў-Махнавец В. Будаўнікі будучыні // Образование. 1907 № 4 (усе на рус мове) і інш.] Бальшавіцкія публіцысты рэзка крытыкавалі Б (артыкулы Леніна ў газ. «Искра» і інш.). У 1920-я гады многія бундаўцы праслаўлялі гісторыю Б. ў сав. друку [Рафес М Нарысы па гісторыі Бунда. М., 1923; Бухбіндэр Н. А. Гісторыя яўрэйскага рабочага руху ў Расіі Л., 1925; 1905 г: Яўрэйскі рабочы рух: Агляд, матэрыялы і дакументы / Склад. А. Д. Кіржніц М , Л., 1928, Рэвалюцыйны рух сярод яўрэяў Зб. 1. М., 1930 (усе на рус. мове) і інш.] Пры гэтым некаторыя аўтары, найперш з ліку тых, хто пасля самароспуску Б. ў СССР уступіў у ВКП(б), адзначалі і ўхілы Б Аднак у цэлым паранейшаму ідэалізавалі, перабольшвалі яго ролю ў рабочым і с.-д руху, асабліва ў 1898—1907 гады (Рафес, Кіржніц і інш.) Масавы паток кніг, часопісных і газетных публікацый такога характару садзейнічаў пашырэнню ў сав. гістарыяграфіі таго часу некрытычнага стаўлення да гісторыі Б., што праявілася нават у працах гісторыкаў-бальшавікоў (М. М. Пакроўскі, Е. М Яраслаўскі, У. І. Неўскі і інш.) Не пазбеглі адпаведнага ўплыву прабундаўскай гістарыяграфіі і гісторыкі Беларусі (С. Х. Агурскі, У М. Ігнатоўскі, З. Х. Жылуновіч, Я. Л. Дыла, У. І. Пічэта і інш.).

Гістарыяграфія сталінісцкага перыяду цалкам адкінула працы 1920-х гадоў па гісторыі вызваленчага руху ў Расіі і на Беларусі, аб'явіўшы бальшавікоў адзінай рэв. партыяй у краіне на ўсіх этапах барацьбы з царызмам. Усе іншыя дэмакр. партыі і арг-цыі, у т. л Б., былі адкінуты ў контррэв. лагер Гэта прывяло да поўнага скажэння гісторыі вызваленчага руху на Беларусі ў 1895—1917. Сведчаннем таго з'яўляюцца выданні: «Гісторыя Беларускай ССР» (т. 1, 1954, 1961), «Нарысы гісторыі Камуністычнай партыі Беларусі» (ч. 1, 1961, 1968), працы А. І. Воранавай, В. І. Яфрэмавай, Ц. Е. Саладкова, А. А. Кузняева, М. Я Шкляра, У. В. Скорабагатага і інш

Пэўную ролю ў пераадоленні сталінісцкай канцэпцыі гісторыі вызваленчага руху ў Расіі адыгралі 1-ы і 2-і тамы шматтомнай «Гісторыі Камуністычнай партыі Савецкага Саюза» (М., 1964—66) У бел. гістарыяграфіі новыя падыходы да асвятлення Б. ў кантэксце

гісторыі с.-д. і рабочага руху на Беларусі выявіліся ў даследаваннях М. В. Біча, А С Караля, Э. А. Ліпецкага, А. М. Малашкі, У І. Салашэнкі, М С. Сташкевіча

*Літ* Отчет о работе 8 съезда Бунда // Оршанский вестн 1917 23 дек, Рафес М Еврейское коммунистическое движение // Коммунистический Интернационал. 1920 № 9, Яго ж Национальные вопросы Сб ст и материалов М, 1921, Шмуйлович Н Из партийной работы «Бунда» // Пролетарская революция 1922 № 11, Агурский С Еврейский рабочий в коммунистическом движении (1917—1921) Мн, 1926, Яго ж Очерки по истории революционного движения в Белоруссии (1863—1917) Мн, 1928, Яго ж Ленінская «Искра» ў барацьбе супраць Бунда Мн, 1934, Поташ М. Бальшавізм і дробнабуржуазныя партыі ў рэвалюцыі 1905 г ў Беларусі Мн, 1931, Второй Конгресс Коммунистического Интернационала Протоколы М, 1934, Политические партии в Польше, Западной Белоруссии и Западной Украине Мн, 1935, Аронсон Г Россия в эпоху революций Ист. этюды и мемуары Нью-Йорк, 1966, Революционный путь Компартии Западной Белоруссии (1921—1939 гг) Мн., 1966; Малашко А М К вопросу об оформлении однопартийной системы в СССР Мн, 1969, Краткая еврейская энциклопедия Т 1 Иерусалим, 1971, Бич М О Развитие социал-демократического движения в Белоруссии в 1883—1903 гг Мн, 1973, Яго ж Рабочее движение в Белоруссии в 1861—1904 гг Мн, 1983, Бурмистрова Т Ю., Гусакова В С. Национальный вопрос в программах и тактике политических партий в России, 1905—1917 гг Мн, 1976, Полуян В А Революционно-демократическое движение в Западной Белоруссии (1927—1939 гг) Мн., 1978, Шестак Ю Борьба большевистской партии против национализма и оппортунизма Бунда М., 1980, Солошенко В И Большевики в борьбе с мелкобуржуазными партиями в Белоруссии (1903—март 1917 гг) Мн, 1981, Комин В В, Червякова М М Агония Бунда // Большевики и непролетарские партии в период Октябрьской революции и в годы гражданской войны Материалы конф М, 1982, История рабочего класса Белорусской ССР Т 1 Мн, 1984, Непролетарские партии России Урок истории М, 1984, гл таксама ў раздзеле Гістарыяграфія Бунда

*М В Біч* (1897—1907, гістарыяграфія Бунда), *Э М Савіцкі* (1908—16), *П К Башко, Э А Ліпецкі* (люты 1917—1923), *У А Палуян* (Заходняя Беларусь)

**БУНЧУ́К** (цюрк.), старадаўняя вайск. рэгалія ў выглядзе дрэўка з шарам ці вастрыем на верхнім канцы, з пасмамі конскіх валасоў і 2 сярэбранымі кутасамі. Меў значэнне сцяга ці сімвала ўлады і знака годнасці турэцкіх пашоў, у 16—18 ст.— гетманаў ВКЛ і Польшчы, казацкіх атаманаў.

**БУ́РАЗЬ,** археал. помнікі каля в. Буразь Жыткавіцкага р-на. За 1 км на Пд ад вёскі, ва ўрочышчы Казаргаць. Абследавалі ў 1927 А. Дз. Каваленя, С. С. Шутаў, Я. Р. Калодкін, В. П. Тарановіч, даследавалі ў 1961 Ю. У. Кухарэнка, Л Д. Побаль, у 1968 У. Ф Ісаенка

Паселішча каменнага і бронзавага вякоў. Знойдзены крамяневыя вырабы, магчыма, эпохі мезаліту, у т. л. тронкавыя наканечнікі стрэл на ножападобных пласцінках; фрагменты керамічнага посуду з грабеньчатым, накольчатым, ямачным арнаментамі, крамяневыя вырабы днепра-данецкай культуры, крамяневыя вырабы і керамічны посуд сярэднедняпроўскай і ўсходнетшцінецкай культур.

Селішчы жал веку. Паблізу паселішча Знойдзены посуд мілаградскай культуры. У канцы 1-га тысячагоддзя да н. э.— пач. 1-га тысячагоддзя н. э. тут існавала селішча *зарубінецкай культуры*

Бескурганны могільнік зарубінецкай культуры Побач з селішчамі Выяўлены ў 1920-я гады Раскапана 19 пахаванняў. Пахавальны абрад — трупаспаленне. Рэшткі крэмацыі эмяшчалі ў ямку. Пахавальны інвентар: грубаляпны і глянцаваны посуд, жал. і бронзавыя вырабы. Выяўлены таксама слав. старажытнасці 6—9 ст., рэчы раннефеад перыяду. *М М Крывальцэвіч*

**БУРА́К** Аляксандр Кандратавіч (н. 12.2. 1918, ст. Койданава Мінскага пав., цяпер у межах Дзяржынска), удзельнік Вял. Айч. вайны Герой Сав. Саюза (1945). Скончыў Мінскі аэраклуб (1938), Адэскую ваен авіяцыйную школу лётчыкаў (1940), Вышэйшыя афіцэрскія летнатактычныя курсы (1946 і 1951). У Чырв. Арміі з 1938. На фронце з крас. 1942— летчык, камандзір звяна, нам. камандзіра эскадрыллі штурмавога авіяпалка на Бранскім, Калінінскім, 1-м і 4-м Укр. франтах. Старшы лейтэнант Б. зрабіў 128 баявых вылетаў, знішчыў 28 варожых танкаў, 50 аўтамашын, 3 самалеты, 7 складоў з боепрыпасамі, 3 батарэі зенітнай артылерыі, 2 чыг эшалоны. Да 1956 у Сав. Арміі, падпалкоўнік.

А М Бурак.

**БУРА́К** Андрэй Мацвеевіч (1911, в. Асвейца Верхнядзвінскага р-на — 17.10 1943), удзельнік Вял. Айч. вайны. Герой Сав. Саюза (1943). З 1938 працаваў на з-дзе ў Ніжнім Тагіле Свярдлоўскай вобл., ва Уральскім леспрамгасе. На фронце з чэрв. 1941. Наводчык кулямёта радавы Б. вызначыўся ў вер. 1943 пры фарсіраванні Дняпра каля г. п Ржышчаў Кіеўскай вобл. Агнем кулямета прыкрываў пераправу, знішчыў некалькі агнявых пунктаў ворага. На захопленым плацдарме з яго ўдзелам адбіты 3 контратакі. Загінуў у баі. Пахаваны ў с. Балыка-Шчучынка Кагарлыцкага р-на Кіеўскай вобл. У в Ігналіна Верхнядзвінскага р-на на ўшанаванне яго памяці пастаўлена стэла.

Г М Бураўкін.

**БУРА́ЎКІН** Генадзь Мікалаевіч (н. 28 8.1936, в. Тродавічы Расонскага р-на), беларускі паэт, дзяржаўны дзеяч. Скончыў БДУ (1956) Працаваў у час «Камуніст Беларусі», на Бел. радыё, у газ. «Літаратура і мастацтва», быў карэспандэнтам газ. «Правда». З 1972 гал рэдактар час. «Маладосць», з 1978 старшыня Дзярж к-та БССР па тэлебачанні і радыевяшчанні. У 1990—93 пастаянны прадстаўнік Рэспублікі Беларусь пры ААН (меў ранг надзвычайнага і паўнамоцнага пасла). Аўтар кніг паэзіі «Майская просінь» (1960), «З любоўю і нянавісцю зямною» (1963), «Дыханне» (1966), «Жніво» (1971), «Выток» (1974), «Варта вернасці» (1978, Дзярж прэмія БССР імя Я. Купалы 1980), «Гняздо для птушкі радасці» (1986) У вершах Б. шчыра спалучаюцца грамадзянскі запал і глыбокае лірычнае перажыванне. Многія вершы напоўнены замілаванасцю да роднай зямлі, Радзімы, маці. Выступае як кінадраматург, перакладчык, публіцыст і крытык. Дэп. Вярх Савета БССР у 1980—90.

**БУ́РАЎСКІ РАССТРЭ́Л 1906,** расстрэл стражнікамі сялян в. Бурая Аршанскага пав. (цяпер Дубровенскі р-н) 27 красавіка. З восені 1905 сяляне гэтай і інш вёсак Дубровенскай вол неаднаразова рабілі самавольныя парубкі лесу, што належаў кн. Любамірскаму. У пач. 1906 з дапамогай карных атрадаў парубачны рух сялян воласці быў спынены. Любамірскі пачаў праз суд вяртаць высечаныя лесаматэрыялы Улады прымушалі не толькі звезці бярвенне ў маёнтак, але і распілаваць іх. Рабіць гэта сяляне катэгарычна адмаўляліся. 27 крас. супраць жыхароў в. Бурая былі пасланы 20 стражнікаў на чале зураднікам Асмалоўскім. Пры ўездзе ўраднік пакінуў засаду, а сам накіраваўся ў вёску Сустрэўшы на вуліцы хлопчыка, ураднік пачаў збіваць яго нагайкай за тое, што той не зняў перад ім шапку. Бацька, які выбег на крык дзіцяці, быў адразу ж паранены выстралам урадніка. На стрэл збеглася ўся веска Стражнікі без ніякай падставы адкрылі па натоўпе агонь

фабрычная вытв-сць з-за недахопу капіталу і неспрыяльнай палітыкі царызму «мала развівалася» Характэрнымі для прам-сці Беларусі лічыў рамествы і апрацоўку с.-г. прадукцыі Гэта былі першыя спробы навук. аналізу і асэнсавання сацыяльна-эканам. развіцця Беларусі ў перыяд капіталізму. У цэлым яны давалі адэкватныя ўяўленні пра галоўныя адметнасці эканомікі і сац. структуры насельніцтва Беларусі. Б не выдзяляў на Беларусі як асобныя катэгорыі сял. серадняцкія і заможныя гаспадаркі, ігнараваў наяўнасць на Віцебшчыне і Магілёўшчыне абшчыннай уласнасці сялян на зямлю (магчыма, лічыў яе разбуранай у выніку сталыпінскай агр. рэформы). Беларускі нац рух, паводле Б., меў глыбокія карані «ў мінуўшчыне, палітычным жыцці Беларусі, у яе эканамічных, этнаграфічных і лінгвістычных асаблівасцях». 11—12 ст ен характарызаваў як «час найвялікшага развіцця дзяржаўнасці», а 11—14 ст — таксама і нац. культуры бел. народа, «збудаваных на свабодна-дэмакратычным фундаменце» У наступныя стагоддзі народ супрацьцўляўся цэнтралізму, які «накідала Беларусі Польшча ў форме шляхецкаарыстакратычнай рэспублікі й Масква ў форме баярскай алігархіі й манархічнага абсалютызму», але не змог захаваць сваей дзярж незалежнасці з прычыны нац.-рэлігі. антаганізмаў і інш. фактараў. Б падкрэсліваў, што бел. народ захаваў рысы асобнай нацыі — «сваю мову, звычаі, свой самастойны культурны і эканамічны ўклад жыцця». Канцэпцыя Б. зараз можа разглядацца як навуковая ў сваей аснове, за выключэннем тэзіса аб «свабодна-дэмакратычным фундаменце» дзяржаўнасці і культуры Беларусі 11—16 ст Пачатак бел. нац. руху Б адносіў да 1830—40-х гадоў і звязваў яго з адраджэннем бел. пісьменства. Накірунак творчасці В. Дуніна-Марцінкевіча характарызаваў як сентыментальна-шляхецкі. Далейшае развіцце руху ў 2-й пал. 19 ст. паказвае сцісла, згадаўшы К. Каліноўскага, бел. студэнцкія гурткі ў Пецярбургу, Маскве, Харкаве, выданне «Гомона», а за мяжой — брашуры «Пра багацтва ды беднасць» і зборнікаў Ф. Багушэвіча, якога разам з Я. Лучынам далучыў да пісьменнікаў «сапраўды народнага напрамку». Беларускі нац. рух пач. 20 ст., калі яго кіраўніком стала БСГ, асветлены на аснове ўласных успамінаў. На час публікацыі гэта быў адзін з першых матэрыялаў пра ўзнікненне і дзейнасць БСГ. Даволі грунтоўна асветлены арганіз. структура БСГ, шэраг яе выданняў, цесныя ўзаемаадносіны з ППС, раены і сферы дзейнасці. Галоўныя сілы і ўвагу партыя, паводле Б., накіроўвала на вёску з мэтай выхавання і арганізацыі шматлікага на Беларусі сельскага пралетарыяту і малазямельнага сялянства, а працу ў горадзе з прычыны невял. колькасці прамысл рабочых вяла, «маючы толькі на мэце ўтварыць моцную, сапраўдна пралетарскую грамаду працаўнікоў на весцы». Названа шмат прозвішчаў актыўных членаў Грамады, адзначаны іх парт. і літ. псеўданімы, сац. становішча, канкрэтная дзейнасць. Многія звесткі з'яўляюцца унікальнымі, напр пра заснавальнікаў Сацыялістычнай партыі Белай Русі і спробах БСГ аб'яднацца з ею. Адзначаны істотныя змены ў характары і формах нац. руху ў канцы 1906, калі ва ўмовах наступлення контррэвалюцыі і рэпрэсій, забароны радыкальных выданняў, у т. л. газ. «Наша доля», ён вымушаны быў абмяжоўвацца культ.-асветнымі задачамі, прапагандай нац. свядомасці і ідэй нац.-культурнага адраджэння Цэнтрам згуртавання нац. свядомых сіл у той час стала газ. «Наша ніва». Паказваючы поспехі ў развіцці бел. літаратуры, выдавецкай, тэатральнай і іншай дзейнасці на ніве нац. адраджэння ў 1907—14, ен разам з тым падкрэслівае перашкоды на шляху бел. нац. руху, спробы задушыць яго з боку царскага ўрада, рус. і польскіх шавіністычных партый і арг-цый. У барацьбе супраць бел адраджэння гэтыя сілы, не зважаючы на ўзаемную варожасць, выступалі адзіным фронтам. Як новы этап у развіцці нац. руху разглядаў Б. перыяд 1-й сусв вайны, якая «напоўніла Беларусь мільенамі зусім чужых для яе людзей» і адначасова выгнала з краю «мільены беларусаў-уцекачоў». Б. засведчыў небывалы раней размах, які набыў бел. нацыянальны рух на неакупіраванай немцамі тэрыторыі цэнтр. і ўсх. Беларусі, а таксама сярод беларусаў бежанцаў і вайскоўцаў. Б. падкрэсліў прынцыповую асаблівасць бел. нацыянальнага руху — «выключнае і пераважнае значэнне ў ім сацыялістычных напрамкаў і выразную слабасць буржуазных», што тлумачыў спецыфічнай структурай бел. нацыі, практычна пазбаўленай эксплуататарскіх класаў. Заслугоўвае ўвагі высновa Б. аб паліт. мімікрыі пасля Лют. рэв. 1917 былых зацятых ворагаў бел. нацыянальнага руху — вялікадзяржаўных шавіністаў, якія з манархістаў перафарбаваліся ў дэмакратаў і «хаўрусна з наехаўшымі ў Беларусь арміямі чужых людзей» імкнуліся «пашырыць у народзе перакананне, што беларускае пытанне — гэта польская інтрыга, накіраваная проці сялянства і маючая на мэце аддзяленне Беларусі ад Расіі». Б. паказаў, што дзякуючы намаганням БСГ на *З'ездзе беларускіх арганізацый і партый 1917* да кіраўніцтва нац. рухам зноў вярнуліся сацыялісты і дэмакраты Засведчыў ен, што 3-і з'езд БСГ (Мінск, 14—25.10.1917) «выявіў выразна яе распад», пачатак расколу бел. нац. руху на камуніст і сацыяліст. кірункі. У гістарыяграфічных адносінах паказальна, што Б ніводным словам не абмовіўся аб рашэннях *Усебеларускага з'езда 1917* і яго разгоне бальшавіцкімі ўладамі, пра абвяшчэнне БНР і зацятай барацьбе Паўн-Зах абкома РКП(б) супраць бел. нацыянальнага руху — у т. л. камуністычна-сав. кірунку. Успаміны Б, як і ўсякія іншыя, патрабуюць крытычнага падыходу і праверкі іншымі крыніцамі. Б сцвярджаў, што 1-ы з'езд БСГ «прыняў агулам праграму ППС». На самай справе гэта не так. Многія даследчыкі, спасылаючыся на Б., паўтаралі гэтыя сцверджанні. Адпаведную фразу Б. трэба разумець так, што праграма ППС з'яўлялася для ўдзельнікаў з'езда ўзорам, з якога яны запазычылі шмат патрабаванняў, у т л. і лозунг незалежнай дэмакр. рэспублікі (вядома, беларускай, а не польскай). Успаміны Б. з'яўляюцца найкаштоўнейшай крыніцай па гісторыі бел. нац руху пач. 20 ст.

*Тв* Колькі слоў аб беларускім тэатры і хоры // Хрэстаматыя па гісторыі беларускага тэатра і драматургіі Мн, 1975 Т 1, Беларускае ігрышча 21 лістапада ў Вільні // Наша ніва 1911 1(14) снеж

*Літ* П Б[адунова] Памяці А Бурбіса // Адраджэнне 1922 Сш 1, Байкоў Н Памяці А Бурбіса // Вестн нар комиссариата просвещения ССРБ 1922 № 3—4, Луцкевіч А Аляксандр Бурбіс // Беларускі звон 1922 22 крас, Хлебцевич Е Памяти А Л Бурбиса // Каторга и ссылка 1923 № 5, Жылуновіч З Алесь Бурбіс (Рэв характарыстыка) // Полымя 1927 № 2, Луцкевіч А За дванцаць пяць гадоў (1903—1928) Вільня, 1928 (перавыд Мн, 1991), Пазняк З Бурбіс і Цетка — на сцэне // ЛіМ 1972 17 сак, Яго ж Матэрыялы пра беларускі тэатр у газетах «Наша ніва» і «Беларус» // Из истории книги в Белоруссии (сб ст) Мн, 1979, Семашкевіч Р. М Світка Буйніцкага // Семашкевіч Р М Выпрабаванне любоўю Мн, 1982, Гісторыя беларускага тэатра Т 1 Мн, 1983, Камінская Л Рэвалюцыя — яго жыцце // Беларусь 1985 № 10, Уладзімірава І Самаахвярны змагар // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі 1985 № 4, Янушкевіч Я Ён любіў свой народ // ЛіМ 1985 25 кастр, Біч М «Стары змаганец» // Мастацтва Беларусі 1986 № 3 *М В Біч*

**БУРГАМІ́СТР** (ням. Bürgermeister), 1) выбарная асоба, якая ўзначальвала мясцовае самакіраванне ў сярэдневяковых гарадах, дзе дзейнічала *магдэбургскае права,* у феад. гарадах Беларусі наз. *бурмістр* 2) У час Вял. Айч вайны на акупіраванай тэр. Беларусі ням. фашысты пад выглядам мясц. самакіравання назначалі ў гарадах і раенах Б. як з мясцовых жыхароў, так і з асоб, якія прыбылі разам з акупантамі і супрацоўнічалі з імі. *А М Літвін*

**БУРДЗЕ́ЙКА** Андрэй Вікенцьевіч [8(20).6.1899, Мінск — 1941], беларускі гісторык. Скончыў БДУ (1925) Працаваў навук. супрацоўнікам Беларускага дзярж музея. Даследаваў пераважна зямельнае права і прававое становішча сялянства ў феад. эпоху. На аснове аналізу Статута 1566 даказваў існаванне прыгонніцтва ў ВКЛ. Аўтар прац па сац.-эканам. гісторыі Беларусі «Нарыс сацыяльна-эканамічнага жыцця места Навагрудка ў XVI ст» (1927), дзе ўпершыню ў бел. гістарыяграфіі адзначыў ролю Навагрудка як сталіцы ВКЛ у 13 ст., «Да пытання аб рэформе 1861 г.» (1928); крыніцазнаўстве «Прыказ Вялікага княства Літоўскага (фонд установы і функцыі)» (1929). 19.7.1930 арыштаваны,

10.4.1931 асуджаны да 5 гадоў ссылкі ў г. Елабугу. Рэабілітаваны ў 1957.

*Тв.:* Землеўласнік і земляроб па Літоўскаму статуту 1566 г. // Працы БДУ. Мн., 1927. № 14—15; 1928. № 20; Беларускі дзяржаўны культурна-гістарычны музей у Мінску: Гіст. аддз.: Праваднік-лістоўка. Мн., 1930.

*Літ.:* Пичета В. И. Изучение Литовских статутов в новейшей историко-юридической литературе (1918—1940 гг.) // Пичета В. И. Белоруссия и Литва в XV—XVI вв. М., 1961; Копысский З. Ю., Чепко В. В. Историография БССР. Эпоха феодализма. Мн., 1986; Иоффе Э. Г Из истории белорусской деревни. Мн., 1990.

*З. Ю. Капыскі.*

**БУРДЗЕ́ЙНЫ** Аляксей Сямёнавіч [5(18).10.1908, г. Житомір — 21.4. 1987], удзельнік баёў на Беларусі ў Вял. Айч. вайну. Ген.-палк. (1961), Герой Сав. Саюза (1945). Пасля сканчэння рабфака працаваў на прадпрыемствах Жытоміра. У Чырв. Арміі з 1931. Скончыў Саратаўскае бранятанкавае вучылішча (1932), ваен. акадэміі механізацыі і матарызацыі РСЧА (1940), Генштаба (1949). На фронце з чэрв. 1941 — камандзір палка, нач. штаба танкавай брыгады, корпуса. Удзельнік абароны Кіева, Харкава, баёў пад Варонежам, Сталінградскай і Курскай бітваў. З восені 1943 у складзе Зах. фронту ўдзельнічаў у вызваленні Ельні, Смаленска, усх. раёнаў Віцебшчыны; у чэрв. 1944 у складзе 3-га Бел. фронту вызваляў Оршу. 3.7.1944 войскі 2-га гв. танкавага Тацынскага корпуса пад камандаваннем ген.-м. Б. першымі ўварваліся ў Мінск і разам з інш. злучэннямі 3-га і 1-га Бел. франтоў вызвалілі сталіцу Беларусі ад ням.-фаш. захопнікаў. Удзельнік вызвалення Літвы, баёў ва Усх. Прусіі. У 1954—63 пам., нам. і 1-ы нам. камандуючага БВА, да 1973 на адказных ваен. пасадах. З 1974 у адстаўцы. Дэп. Вярх. Савета БССР у 1959—67. Чл. ЦК КПБ у 1960—66. Ганаровы грамадзянін Мінска (1967), дзе яго імем названа вуліца.

А. С. Бурдзейны.

**БУРЖУАЗІ́Я** (франц. bourgeoisie), грамадскі клас, які валодае сродкамі вытв-сці, ідэямі і навыкамі для арганізацыі рынкавай гаспадаркі і жыве за кошт інвестыцыі капіталаў.

Передумовы для ўтварэння бел. Б. склаліся яшчэ ў 16 ст., калі ў Вялікім княстве Літоўскім пашырыўся ўнутр. і замежны гандаль, паскорыўся рост гарадоў і мястэчак. Адметнай рысай таго часу было бел. *купецтва.* Аднак пасля *Люблінскай уніі 1569* генезіс буржуазіі ўскладніўся, узмацніліся рэлігійныя спрэчкі, дыктат і канкурэнцыя з боку паланізаваных паноў і магнатаў, для якіх не стала заслонай і *магдэбургскае права.* У выніку вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1564—67 пабольшаў уплыў і яўрэйскіх багацеяў, якія прыбіралі ў свае рукі гандаль і рамяство спустошаных рускім войскам гарадоў. У 18 ст. на Беларусі з'явіліся *мануфактуры,* але іх адкрывалі тыя ж паланізаваныя паны, а таксама яўрэі і немцы (напр., суконныя мануфактуры Беласточчыны). Далучэнне бел. зямель да Расійскай імперыі (канец 18 ст.) не спрыяла фарміраванню нац. Б. Беларусы канчаткова страцілі дзяржаўнасць. Пасля задушэння паўстання 1863—64 замест паланізацыі прыйшла яшчэ больш жорсткая палітыка русіфікацыі. На шляху росту і ўзмацнення бел. прадпрымальнікаў, акрамя апалячаных паноў і яўрэйскіх багацеяў, стаяла яшчэ і рус. чыноўніцтва. Усе намаганні мяшчан-беларусаў зберагчы свае традыц. заняткі былі падарваны тым, што рус. ўрад перапісаў іх (на ўзор расійскіх) у падатнае саслоўе нароўні з прыгонным сялянствам. Таму яны пачалі займацца агародніцтвам і садоўніцтвам ці ўвогуле пакідалі гарады, дзе замацоўваліся яўрэі, якія мелі вял. вопыт у камерцыйных справах і былі вольныя ад прыгону. Пасля далучэння да Расіі канкурэнцыя з боку яўрэяў не паслабілася. Паводле закону пра *мяжу яўрэйскай аселасці,* сярод губерняў, дзе дазвалялася жыць яўрэям, былі 5 беларускіх (уся сучасная тэр. рэспублікі). Гэтыя акалічнасці ўскладнялі дзейнасць бел. прадпрымальнікаў, прывялі амаль да поўнага знікнення таго купецка-мяшчанскага падмурку бел. народа, на якім звычайна падымаўся гандлёва-прамысл. клас капіталіст. грамадства. Зберагаліся адзінкавыя старадаўнія гандлёва-прамысл. сем'і беларусаў, і то пераважна на землях б. *Полацкага княства,* дзе яўрэі не мелі права сяліцца аж да канца 17 ст.

Фарміраванне бел. Б. павінна было пачынацца на сял. аснове. Нават у 1897 сярод бел. насельніцтва ў 5 зах. губернях сял. саслоўе складала 92,1 %. Займацца прадпрымальніцтвам вяскоўцам напачатку перашкаджаў прыгон. Селянін не мог адкупіцца ад пана аброкам, які не быў пашыраны на Беларусі. Яго прымушалі працаваць на панскіх землях. Асабліва неспрыяльныя ўмовы склаліся для сялян Магілёўскай губ., дзе паншчына адбывалася не з *цягла,* а з душы, і прыгонныя ніяк не маглі адлучыцца на заробкі. Да таго ж мясц. паны не заахвочвалі сял. гандлёва-прамысловую дзейнасць. Сваімі камерцыйнымі пасрэднікамі яны найчасцей выбіралі больш вопытных жыхароў гарадоў і мястэчак. Таму сял. саслоўе Беларусі ў працэсе першапачатковага накаплення капіталу ў дарэформенны перыяд практычна не ўдзельнічала. Не ўдзельнічала і дробная бел. шляхта, якая паводле свайго становішча мала чым адрознівалася ад сялян. Шляхецкі гонар не дазваляў ёй займацца ні гандлем, ні промысламі. Пасля адмены прыгону з'явіліся ўмовы для фарміравання сельскай Б. Па прыкладных падліках у 1897 яна складала каля 9 % бел. с.-г. насельніцтва Віленскай, Віцебскай, Гродзенскай, Магілёўскай і Мінскай губерняў (463,5 тыс. з 5073,1 тыс. чал.).

Найбольшыя шанцы выбіцца ў заможныя гаспадары *сялянская рэформа 1861* давала б. *дзяржаўным сялянам,* якія атрымалі большыя надзелы, а плацілі за іх меншы выкуп, чым панскія сяляне. І гэта не выпадкова, бо сярод дзярж. сялян было шмат рус. старавераў. Пад уплывам *паўстання 1863—64* у Польшчы, на Беларусі і ў Літве царскі ўрад значна радыкалізаваў зямельную рэформу на Беларусі і ў Літве, але некаторыя льготы не забяспечылі рост бел. сялянскай Б. Тыя надзелы, якія сяляне атрымалі ў 1860-я гады, з цягам часу драбнелі, бо дзяліліся паміж нашчадкамі. За 1863—92 у Віленскай, Віцебскай, Гродзенскай, Магілёўскай і Мінскай губ. сярэдні надзел на мужчынскую душу скараціўся з 5,1 да 2,9 дзес. Сяляне вымушаны былі купляць зямлю. Але тут яны сутыкаліся з вял. цяжкасцямі. Тыя маёнткі, якія ў 1860-я гады адбіраліся ў паноў, што ўдзельнічалі ў паўстанні, прадаваліся не бел. сялянам, а рус. чыноўнікам па неверагодна нізкіх цэнах. Паланізаваныя землеўладальнікі каталіцкага веравызнання за ўдзел у антыцарскім паўстанні страцілі права на набыццё на Беларусі і ў Літве новых зямель (закон 10.12.1865), а таму трымаліся за тое, што мелі. Паны разглядалі сялян як канкурэнтаў у эканам. жыцці і не спрыялі іх узбагачэнню. Нездарма ў Віленскай, Віцебскай, Гродзенскай, Ковенскай, Магілёўскай і Мінскай губ. быў самы нізкі ў параўнанні з інш. рэгіёнамі Еўрап. Расіі працэнт прыватнаўласніцкіх зямель, якія ў 1863—1902 паступілі ў продаж. Купля зямлі магла адбыцца толькі з дазволу губ. улад. Так склалася, што бел. сяляне і дробная шляхта каталіцкага веравызнання не маглі набыць больш за 60 дзес. на сям'ю з улікам зямлі, якую яны ўжо мелі. Гэта пацверджана царскімі ўказамі ад 4 сак. і 27 студз. 1901, якія дзейнічалі да 1905. Вялікі попыт на зямлю вёў да таго, што цэны на яе хутка раслі, чаму спрыяла і зямельная спекуляцыя. Калі ў 1863—72 на Беларусі і ў Літве дзесяціна каштавала 11 руб., то ў 1893—1902 ужо 41 руб. Гэта быў самы высокі паказчык падаражання зямлі сярод рэгіёнаў нечарназёмнай паласы Еўрап.

Расіі Сялянскі банк, які адкрыўся ў 1883, не апраўдаў спадзяванняў сялян на зямельны крэдыт. Сяляне-каталікі зусім былі пазбаўлены крэдытавання.

Асн. прыбытак давала вытв-сць таварнага збожжа Таму крызіс хлебнага гандлю ў 1880-я гады пагоршыў эканам. становішча бел. сялян, замарудзіў рост іх заможнага пласта. У адрозненне ад паноў, яны не здолелі пераарыентавацца на жывелагадоўлю, бо не мелі дастаткова ні пашы, ні сродкаў. Гандаль ільном не стаў такім распаўсюджаным, як продаж збожжа. Нац. багацце — лес — знаходзіўся ў руках паланізаваных і рус паноў, а гандаль ім прыносіў вял прыбыткі гаспадарам і яўрэйскім купцам-пасрэднікам. Бел. сялянам заставаліся толькі заробкі на лесараспрацоўках, а таксама ў мясц. маентках, фабр. цэнтрах, на ўкр. шахтах і цукровых плантацыях. Сяляне эканомілі на ўсім, абы толькі прыкупіць зямлі, бо на царскіх надзелах яны не адчувалі сябе гаспадарамі. Гэтыя надзелы патрэбна было яшчэ выкупіць у дзяржавы. Лад бел. вескі, пабудаваны на расійскі ўзор, не спрыяў росту гаспадарлівасці і прадпрымальніцтва Асабліва шкодзіла гэтаму абшчыннае карыстанне зямлей, якое пераважала ва ўсх. Беларусі. Узбагачэнню магла паслужыць, як лічылі тады, хутарызацыя, ці пераход да фермерскага гаспадарання.

Бел. веска да канца 19 ст. не змагла вылучыць колькі-небудзь значны пласт буйной Б Сялянскіх сем'яў, якія мелі больш за 500 дзес. зямлі і вялі гаспадарку на капіталіст. лад, налічвалася каля 140 (1 тыс. чал.). Паланізаваныя паны не ўсведамлялі свайго бел паходжання. Сярэдняя Б. складала ў 1897 каля 1 % (44,5 тыс. чал.), дробная — 8 % (418 тыс. чал.) ад усяго бел. сельскагаспадарчага насельніцтва Землеўладанні сярэдніх прадпрымальнікаў вагаліся ад 60 да 500 дзесяцін. Яны мелі не менш за 6 коней, нярэдка выкарыстоўвалі с.-г машыны, навейшую агратэхніку. Гаспадары, як правіла, не прымалі асабістага ўдзелу ў рабоце, а толькі кантралявалі яе самі ці праз упаўнаважаных асоб Дробнабуржземлеўладанні ўкладваліся паміж харчовай і працоўнай нормамі зямлі. Ва ўмовах Беларусі для пражыцця сял. сям'і патрабавалася валока (20 дзес.) зямлі. Гэта крыху больш, чым у цэлым па Расіі, таму што бел. сем'і былі аялікія, а зямля ў большасці малаўрадлівая. Працоўная ж норма вызначалася ў 60 дзес. Роўна столькі магла, паводле сведчання мясц. улад, апрацаваць сярэдняя сял. сям'я без наемных работнікаў. У межах дробнабуржземлеўладання наем меў выпадкоаы, эпізадычны характар. Аднак вытв. сувязі дробнабуржулаенікаў з рынкам ажыццяўляліся больш-менш сістэматычна. Гаспадары 20—60 дзес мелі не менш як 3 коней, выкарыстоўвалі прасцейшыя с.-г. машыны. Іх праца была рэнтабельнай, давала пэўныя лішкі прадукцыі. Беларускую сял Б няма падстаў называць кулацкай. Ёй, у адрозненне ад сельскай Б. ўнутр. губерняў Расіі, не былі ў такой меры ўласцівы міраедства, несумленнае і спекулятыўнае ўзбагачэнне. Кулацкае аблічча нязначнай часткі сял багацеяў Беларусі магло выяўляцца пераважна ў спекуляцыі зямлей, бо ліхвярства было манапалізавана яўрэйскай Б.

Сярод неземляробчага бел насельніцтва фарміраванне Б. ішло больш паспяхова Па прыкладных падліках у 1897 яна складала каля 15 % (50,5 тыс. з 335,3 тыс. чал.). Для ўзбагачэння жыцце ў гарадах і мястэчках было больш спрыяльнае, чым у вёсках Аднак 50-тысячная неземляробчая Б. на 6-мільённы народ — велічыня мізэрная. Выключна выгаднае геагр. становішча Беларусі здавалася б стварала перадумовы для ператварэння беларусаў у гандл. нацыю Але такога не здарылася, бо яўрэйскія прадпрымальнікі, для якіх пасрэдніцкі гандаль быў адной з асн. крыніц існавання, рабілі ўсе, каб пазбавіцца ад канкурэнтаў. Наплыў яўрэяў у гандаль асабліва павялічыўся пасля таго, як ім у 1882 забаранілі сяліцца па-за гарадамі і мястэчкамі. У такіх умовах бел. селяніну ці мешчаніну было цяжка выбіцца ў купцы Ды і ў Смаленскай губ., дзе яўрэям жыць было забаронена, вял. ўдзелу беларусаў у гандлі, мяркуючы па перапісе 1897, не назіралася. І там іх асн. інтарэсы звязваліся з земляробствам, многія былі перакананы, што гандляваць могуць толькі яўрэі, што гандаль — справа нікчэмная. Але і беларусы паступова далучаліся да камерцыйнай дзейнасці. Як сведчыць спіс купцоў Мінскай губ. за 1900, у гэта саслоўе запісаліся хрысціяне ў 1860-я гады 2 чал, 1870-я — 3, 1880-я — 2, у 1890-я — 14 чалавек. Купецтва папаўнялася пераважна з ліку жыхароў мястэчак і гарадоў. Яўрэйскія бурж. выданні канца 19 ст. («Хроника Восхода», «Восход» і інш.) скардзіліся на рост неяўрэйскага гандлю, на спачуванне яму з боку хрысціянскага насельніцтва. Беларусы адкрывалі крамы не толькі ў гарадах, але і ў мястэчках.

Бел. прамысловая Б. не магла быць шматлікай па тых жа прычынах, што і гандлёвая. Яе росту не спрыяла і спецыялізацыя Беларусі на с.-г. вытворчасці. Па тэмпах і размаху індустрыялізацыі бел. рэгіен адставаў ад іншых рэгіенаў краіны. Наплыў фабрыкантаў з расійскіх прамысл. цэнтраў скарачаў сферу дзейнасці мануфактурных і рамесна-саматужных прадпрыемстваў. Бел. прамыслоўцы не маглі разлічваць на пратэкцыянізм рус. дзяржавы. Прамысловыя падаткі ў 5 зах. губернях былі ў 1880-я гады на 2,5 % вышэйшымі (у Гродзенскай губ. на 5,6 %), чым у цэлым па Еўрап. Расіі. Пры такіх акалічнасцях толькі вопытныя прадпрымальнікі маглі дасягаць прыбытковасці ў сваей справе. Што датычыць беларусаў, то яны былі звязаны пераважна з рамесна-саматужнай вытворчасцю. Першапачатковае накапленне капіталу ў прадстаўнікоў карэннай нацыі ішло запаволена, а таму ім даводзілася пачынаць з прасцейшых форм прамысловасці. Бел. прамысловае прадпрымальніцтва пайшло пакрысе ўгору толькі з канца 19 ст, калі яўрэйскія рамеснікі на хвалі эканам. ўздыму пакідалі мястэчкі і пераносілі сваю дзейнасць у гарады, дзе быў больш шырокі рынак збыту Іх месца займалі бел. майстры. Пашырэнне таварна-грашовых адносін у 2-й пал. 19 ст. суправаджалася фарміраваннем пласта ранцье ліхвяроў, дыскантэраў, банкіраў, а таксама асоб, якія жылі з зямельнай рэнты і кватэрнай платы. Сярод апошніх былі і прадстаўнікі бел. часткі жыхароў мястэчак і гарадоў. Прычым гэта праслойка бел. Б. павялічвалася па меры ўключэння ў межы гарадоў прылеглых весак і сядзіб, узнікнення на сял. землях новых паселішчаў гар. тыпу (напр., Асіповічы, Баранавічы, Лунінец, Смаргонь, Старыя Дарогі). Побач з прыбыткамі для агародаў і садоў зямельная рэнта і кватэрная плата служылі для гараджан-беларусаў важнай крыніцай назапашвання неабходных сродкаў для пераходу да гандлева-прамысл. і фінансавай дзейнасці.

Нейкая частка адукаваных беларусаў прасочвалася і ў класныя чыноўнікі. Прадстаўнікі вясковага насельніцтва прыцягваліся ў органы сял. самакіравання ў якасці пісараў, сельскіх і валасных старастаў, міравых суддзяў. Царскія чыноўнікі найчасцей стваралі свой дабрабыт на хабары, казнакрадстве, злоўжываннях і паборах. Людзі вольных прафесій (урачы, работнікі культуры), якія мелі сваю справу — лячэбныя ўстановы, майстэрні, выданні і да т. п., па сутнасці з'яўляліся таксама капіталіст. прадпрымальнікамі. Беларусаў сярод іх да пач. 20 ст. амаль што не было. Нейкая частка чыноўніцтва і інтэлігенцыі, беларуская паводле паходжання, была русіфікавана.

Неспрыяльнымі былі і ўмовы для фарміравання буйной бел. Б. з ліку неземляробчага насельніцтва. Паводле сацыяльнага стану да яе набліжаліся толькі некаторыя бел. сем'і з чыноўніцтва і ранцье. Сваіх фабрыкантаў, заводчыкаў, банкіраў, купцоў 1-й гільдыі, аптовых гандляроў беларусы ў 19 ст. не мелі. Па прыкладных падліках буйная неземляробчая Б. ў 1897 складала 0,1 % (200 чал.), сярэдняя — 2,7 % (9,2 тыс чал.), дробная — 12,3 % (41,1 тыс. чал.) ад усяго бел. неземляробчага насельніцтва 5 зах. губерняў. Да сярэдняй Б. адносіліся бел. купцы, якіх у 1897 было 315. Усе яны належалі да 2-й гільдыі, вялі пасрэдніцкі і крамны гандаль, мелі прыказчыкаў У сярэднія пласты бел Б. ўваходзілі і ўладальнікі мануфактур. Яны, як правіла, не ўдзельнічалі ў вытв-сці, а толькі кіравалі ей, мелі прасцейшыя машыны, наймалі не менш за 15 рабочых і выходзілі са сваімі таварамі на ўсерасійскі рынак. Такія прамыслоўцы сустракаліся, напр., сярод гарбароў Смаргоні. Да сярэдняй Б., паводле свайго сац. стану, набліжаліся і найбуйнейшыя ранцье, частка чыноўнікаў. Усе

астатнія гаспадары, якія мелі дастатковы прыбытак для пражыцця і не прадавалі сваю працу, адносіліся да дробнай Б. У гандляроў дастатковы для харчовай нормы прыбытак даваў гадавы абарот у 1 тыс. рублёў Рамеснікі-саматужнікі забяспечвалі свой дабрабыт, калі мелі магчымасць наняць работнікаў У 1893 у Віцебску побач з яўрэйскімі было 10 хрысціянскіх рамесных цэхаў шавецкі, кавальскі, сталярны, кравецкі, цяслярны, рымарна-малярны, канатна-ткацкі, мясніцкі, мулярна-тынкавальны, гарбарны. Яны аб'ядноўвалі 412 майстроў, з якіх каля 49 % мелі наемную сілу (вучні, чаляднікі). У склад дробнай бел. Б. уваходзілі таксама чыны сельскага самакіравання і інтэлігенты, што мелі прыватную практыку (пераважна юрысты)

Вынікі парэформеннага працэсу развіцця бел Б. ў 1897 былі наступнымі. большая яе частка — 463,5 тыс. чал. (90,2 %) — належала да сельскіх гаспадароў; 7,5 тыс (1,4 %) займалася гандлёва-прамысл. дзейнасцю, астатнія 43 тыс чал (8,4 %) непасрэдна з вытв-сцю не былі звязаны (домаўласнікі, рантье і да т п.) Буйная Б. складала 1,2 тыс. чал. (0,2 %), сярэдняя — 53,7 тыс. чал. (10,5 %), дробная — 459,1 тыс чал (89,3 %) У структуры ўсяго бел насельніцтва Б. складала 9,5 % — 514 тыс. з 5408,4 тыс. чал. У іншых народаў, што пражывалі ў 5 зах. губернях, удзельная вага Б. была прыкладна наступнай (у %) у немцаў 25,6, палякаў 25,5, рускіх 23,5, латышоў 19,8, яўрэяў 18, літоўцаў 10,4, украінцаў 9,4 З усёй шматнацыянальнай Б. 5 зах губерняў, якая налічвала 1086,5 тыс. чал., на долю беларусаў прыпадала 47,3 %, яўрэяў — 20, рускіх — 10,6, палякаў — 10, латышоў — 4,9, украінцаў — 3,3, літоўцаў — 2,8, немцаў — 0,6, іншых — 0,5 % Калі ж вылучыць толькі буйную Б., то размеркаванне месц істотна адрозніваецца яўрэяў — 44,7 %, палякаў — 32,4, рускіх — 15,8, беларусаў — 2,7, немцаў — 2,1, латышоў — 1,8, іншых — 0,5 % Такія паказчыкі сведчаць пра эканамічнае нераўнапраўе бел. нацыі, яе малую канкурэнтаздольнасць не толькі ў эканамічным, але і ў культ жыцці. Бел. Б. складалася пераважна з дробных маладукаваных і малавопытных прадпрымальнікаў Яе фарміраванне ішло ў параўнанні з іншымі нацыямі больш запаволенымі тэмпамі і заставалася далёка не завершаным Уключэнне іншанац. элементаў у бурж. структуры грамадства на землях пражывання карэннай нацыі — беларусаў — шкодзіла іх сац. развіццю, ускладняла шлях да нац. самавызначэння і незалежнасці. Вузкасць пластоў бел. Б. і нізкая ступень іх заможнасці рабілі нац. кансалідацыю зусім не забяспечанай матэрыяльна. Не спрыяла гэтаму і прыгнечанасць нац. самасвядомасці бел. Б. Праваслаўныя часам лічылі сябе рускімі, а католікі — палякамі.

Адносна таго, наколькі вырасла і ўмацавалася бел. Б на працягу першых 17 гадоў 20 ст, статыстыка адсутнічае. Але логіка сац.-эканам. развіцця ў новым стагоддзі не пакідае сумненняў, што зрухі тут адбыліся значныя. Выкліканая рэвалюцыяй 1905—07 сталыпінская аграрная рэформа пашырыла магчымасці вяскоўцаў да ўзбагачэння, праўда, адных за кошт іншых. Панскае землеўладанне заставалася некранутым З 1907 сяляне сталі ўласнікамі надзелаў, атрыманых у выніку агр рэформы 1860-х гадоў, якія маглі прадаць, выдзеліць у асобны ад абшчыны водруб ці выселіцца на хутар Хутарызацыю фінансаваў Сялянскі банк. Але завесці фермерскую гаспадарку маглі толькі заможныя Беднейшыя найчасцей збывалі свае кавалачкі зямлі больш багатым і накіроўваліся ў горад ці Сібір. Хутарызацыя ў 5 зах. губернях набыла вял. пашырэнне За 1907—15 тут, паводле падлікаў Л. П. Ліпінскага, узнікла больш за 128 тыс хутароў і адрубаў, што складалі каля 12 % сял. двароў (у 1916 іх было больш за 1,1 млн.) Гэты працэнт умоўна можна лічыць паказчыкам удзельнай вагі бел дробнай і сярэдняй сельскай Б. За 1897—1916 адзначаная велічыня ўзнялася з 9 да 12 %.

У пач. 20 ст. шырыліся пласты бел. Б. і сярод неземляробчага насельніцтва. Памнажалася колькасць гандляроў нерухомай маемасцю, што было выклікана ростам попыту на будаўнічыя пляцоўкі і кватэры з боку шматлікіх мігрантаў з вёскі. Бел. капіталы ўключаліся ў пасрэдніцкі гандаль паміж растучымі гарадамі і багацейшымі вёскамі. Адкрываліся спажывецкія і крэдытныя кааператывы для абслугоўвання хрысціян. Сярэднім бел прадпрымальнікам стала пад сілу заводзіць мадэрнізаваныя мануфактуры, на якіх шырока выкарыстоўваліся працейшыя сістэмы машын. Становяцца вядомымі і бел. фабрыканты Напр., у Нова-Барысаве на рубяжы 19—20 ст. набіралі моц шклозавод Краеўскага і Панкевіча, т-ва папяровай ф-кі, у склад якога ўваходзілі бел прадпрымальнікі. Пласты нац. Б. ўмацоўваліся і за кошт паланізаваных паноў, русіфікаваных чыноўнікаў. Некаторыя з іх пад уздзеяннем нац.-культурнага руху станавіліся свядомымі беларусамі. Да 1917 бел. нацыянальная Б. складала не менш за мільён Бел гандлярам і прамыслоўцам даводзілася вытрымліваць жорсткую канкурэнцыю з яўрэйскімі, польскімі, рус., нямецкімі прадпрымальнікамі, якія, між іншым, былі для пачынаючых камерсантаў добрымі настаўнікамі камерцыйнага майстэрства. У пач. 20 ст адбывалася сацыяльная кансалідацыя шматнац. Б. Беларусі. У 1910 тут дзейнічалі Беластоцкі к-т гандлю і мануфактур, Віленскае гандлёва-прамысловае т-ва, Мінскае прафесійнае т-ва гандляроў і прамыслоўцаў, Мінская лясная (пазней — агульнатаварная) біржа. Прадстаўнікі з Беларусі ўваходзілі і ў агульнарас. манапалістычныя аб'яднанні, напр., Савет з'езда вінакурных заводчыкаў, Усерасійскае т-ва ласапрамыслоўцаў, Усерасійскае т-ва льнопрамыслоўцаў, якое ў сваю чаргу было членам Міжнар федэрацыі саюзаў ільноткачоў, і інш Удзел у паліт дзейнасці бел. Б. быў нязначны. Палітычна яна склалася ў клас толькі пасля Лют. рэв. 1917, калі стала прыкметнай грамадскай сілай і змагла зрабіць уплыў на абвяшчэнне ў сак. 1918 *Беларускай Народнай Рэспублікі*, хоць была не настолькі моцнай, каб абараніць яе

Савецкая ўлада ліквідавала (часткова вынішчыла, часткова выштурхнула за мяжу) дарэвалюцыйную бел. Б Як абавязковы элемент грамадства — арганізатары вытв-сці і размеркавання — яна была страчана Яе месца заняў штат дзяржаўна-парт апаратчыкаў і дзеячаў ценявой эканомікі, якія прыкладна адпавядаюць ваенна-манапалістычнай і ліхвярскай Б. капіталіст. грамадстваў на стадыі іх станаўлення, калі назапашваўся капітал, неабходны для стварэння цывілізаваных умоў жыцця Прадстаўнікі бел народа цаной адрачэння ад роднай мовы і культуры дамагаліся свайго ўключэння ў адм.-парт структуры.

Грамадства сучаснай Рэспублікі Беларусь стварае рыначную эканоміку. У прыватным гандлі Беларусі пакуль задзейнічаны пераважна іншанацыянальны элемент ліхвярскага тыпу Носьбіты навукова-тэхн ідэй (інтэлектуальныя пралетарыі, якія жывуць з зарплаты) імкнуцца да ўлады, адстойваюць права на асабістую ўласнасць і камерцыйную дзейнасць. Гэты працэс ахапіў і апаратчыкаў. Сацыяльны блок навукова-тэхн. рэвалюцыі прыходзіць у адпаведнасць з эканамічным У краінах Захаду інтэлектуалізацыя Б. адбылася ў 1960—70-я гады, калі перадавыя ідэі набылі каштоўнасць капіталу. Фарміраванне сучаснага класа прадпрымальнікаў, аб'ектыўна зацікаўленага ў стабільным прававым грамадстве, дазваляе спадзявацца на дэмакр. развіцце бел. дзяржавы.

*Кр* Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі Т 2 (1772—1903 гг) Мн, 1940, Памятная книжка Витебской губернии на 1863 год Витебск, Б г, Полн собр законов Российской империи Собр 2-е Т 10, № 42759, Свод статистических материалов, касающихся экономического положения сельского иаселения Европейской России Спб., 1894, Статистика землевладения 1905 г Вып 11, 13, 19, 27, 34 Спб, 1906, Статистика поземельной собственности и населенных мест Европейской России Вып 5 Спб, 1882

*Літ* Гісторыя Беларускай ССР Т. 2 Мн, 1972, Борьба за землю (Индуктивно-стат исслед) Т 1 Спб, 1908, Бейлькин Х Ю Сельскохозяйственный рынок Белоруссии 1861—1914 гг. Мн, 1989; Болбас М Ф Промышлениость Белоруссии 1860—1900 Мн., 1978, Гиндин И Ф Русская буржуазия в период капитализма, ее развитие и особенности // История СССР 1963 № 2—3, Гушка А О Представительные организации торгово-промышленного класса в России Спб, 1912, Карнович Е П Замечательные

богатства частных лиц в России Экон -ист исслед 2 изд Спб, 1885, Карский Е Ф К вопросу об этнографической карте белорусского племени Спб, 1903, Ленін У І Развіццё капіталізму ў Расіі // Тв Т 3 (Полн собр соч Т 3) Яго ж Аграрнае пытанне ў Расіі к канцу XIX века // Тв Т 15 (Полн собр соч Т 17), Панютич В П Социально-экономическое развитие белорусской деревни в 1861—1900 гг Мн, 1990, Рохлин Л Л Местечко Краснополье Могилевской губернии Опыт стат -экон описания типичного местечка черты еврейской оседлости Спб, 1908 Самбук С М Политика царизма в Белоруссии во второй половине XIX века Мн 1980, Святловский В В Мобилизация земельной собственности в России (1861—1908 г) 2 изд Спб 1911 Тизенгаузен Н А Некоторые статистические данные о народонаселении Западного края России Мн, 1910 [Турчинович А] Исторический очерк городского населения в Западной России // Виленский календарь на 1887 год Вильна, 1886, Чепко В В Сельское хозяйство Белоруссии в первой половине XIX века Мн, 1966, Чернышев И Расслоение современной деревни // Современный мир 1908 № 6 Шыбеко З В Минск в конце XIX — начале XX в Очерк соц -экон развития Мн, 1985, Яго ж Сацыяльнае размежаванне беларусаў у канцы XIX ст // Весці АН БССР Сер грамад навук 1991 № 6, Янсон Ю Опыт статистического исследования о крестьянских наделах и платежах Спб, 1881, Alexandrowicz S Miasteczka Białorusi i Litwy jako ośrodki handlu w XVI i w 1 połowie XVII wieku // Rocznik Białostocki Białystok, 1961 T 1

*З В Шыбека*

**БУРЖУА́ЗНАЯ РЭВАЛЮ́ЦЫЯ**, тып сацыяльнай рэвалюцыі, форма і спосаб вырашэння гранічна абвостраных сацыяльна-эканамічных і палітычных супярэчнасцей феадальнага ладу і рэалізацыі новых тэндэнцый і запатрабаванняў грамадскага развіцця, што зарадзіліся ў нетрах феадальнага ладу, але не змаглі пераадолець яго супраціўлення і ўсталявацца шляхам сацыяльных рэформ. Скіравана на ліквідацыю *феадалізму* або яго рэштках і ўстанаўленне паліт улады *буржуазіі*, стварэнне ўмоў для развіцця *капіталізму* Паняцце «Б р» ўжываецца ў шырокім сэнсе для характарыстыкі ўсяго працэсу пераходу ад феадалізму да бурж ладу і ў вузкім — для абазначэння асобных кароткатэрміновых сацыяльна-паліт пераваротаў, у ходзе якіх уладу бярэ буржуазія Як вынік беспаспяховасці рэформ (найчасцей з-за недальнабачнасці правячых колаў, іх непасрэднага процідзеяння новым тэндэнцыям) Б р. з'яўляецца выхадам з тупіка, прарывам у новую эпоху Гэты прарыў, аднак, мае выбуховы характар, таму поруч з ліквідацыяй эканамічных, паліт, ідэалагічных, грамадскіх структур, якія вычарпалі сваю гіст ролю, ён знішчае і шэраг жыццевых структур, здольных да развіцця, да інтэграцыі ў новыя структуры У далейшым гэта патрабуе дадатковых намаганняў для задушэння контррэвалюцыйных сіл, спынення ахлакратыі (улады натоўпу), расчысткі рэчышча сац прагрэсу ад абломкаў, аднаўлення бессэнсоўна разбуранага У залежных і каланіяльных краінах, поліэтнічных феад дзяржавах Б р ўбіраюць у сябе нац -вызв рухі за незалежнасць (або нават вырастаюць з іх) З гэтай прычыны шмат якія Б р суправаджаліся распадам імперый на шэраг новых дзярж утварэнняў Не мяняючы карэнным чынам прыватнага характару ўласнасці на сродкі вытворчасці, Б р здымае з яе саслоўныя абмежаванні і надае першаступеннае значэнне фінансаваму і прамысловаму капіталу На гэтай аснове ствараецца новы тып рынку — капіталістычны Новая сацыяльная сіла, што прыходзіць да ўлады ў выніку Б р, кардынальна мяняе форму дзярж ладу на змену абсалютысцкай манархіі прыходзіць абмежаваная (канстытуцыйная) манархія або рэспубліка Феадальныя структуры, перашкаджаючы развіццю капіталіст укладу, ушчамляюць (хоць і ў рознай ступені) інтарэсы не толькі буржуазіі, але і сялянства, пралетарыяту, што аб'ядноўвае іх у адзін антыфеад лагер, г зн стварае сац базу Б р Суадносінамі сіл у гэтым лагеры вызначаецца размах, магутнасць, формы і характар Б р

З-за нераўнамернасці фарміравання і развіцця капіталіст укладу Б р ажыццяўляюцца ў розных краінах неадначасова, пры істотных адрозненнях у ступені сталасці і радыкалізму рухаючых сіл, суадносін паміж імі Гэтым абумоўлена разнастайнасць форм і відаў Б р, павольнасць працэсу ліквідацыі феад адносін (пачаўшыся ў 16 ст, гэты працэс працягваецца і зараз, гал ч у краінах Афрыкі, Азіі і Лацінскай Амерыкі)

У існуючай класіфікацыі Б р найбольш агульным з'яўляецца падзел іх на рэвалюцыі вярхоў і буржуазна-дэмакратычныя Крытэрыем пры гэтым служыць ступень удзелу шырокіх нар мас, размах сялянскага руху за карэнны перагляд зямельных адносін, выступленне рабочага класа і сялянства з патрабаваннямі, якія адрозніваюцца ад патрабаванняў буржуазіі

Першыя пераможныя Б р — нідэрландская (1566—1609), англійская (17 ст), французская (1789—94) — адбываліся ва ўмовах прагрэсіўнага развіцця капіталізму і пры актыўным удзеле нар мас горада і вёскі Яны забяспечылі ўсталяванне ўлады буржуазіі, перамогу бурж уласнасці над феадальнай, канкурэнцыі над цэхавым ладам, бурж права над саслоўнымі прывілеямі і абмежаваннямі Асаблівая роля належыць Вялікай французскай рэвалюцыі, якая адкрыла новы гіст перыяд — перыяд перамогі і ўсталявання капіталізму ў перадавых краінах. Яна вызначалася шырокім удзелам нар мас, якія з'яўляліся гал. рухаючай сілай, але разам з тым і вастрыней, жорсткасцю барацьбы, насіллем з шырокамаштабнымі рэпрэсіямі Да Б р вярхоў адносяцца рэвалюцыя 1867—68 у Японіі, младатурэцкая рэвалюцыя 1908, сучасныя рэвалюцыі ў некаторых краінах Азіі і Афрыкі, якія не пайшлі далей заваевы нац дзяржаўнасці

На Беларусі на шляхах антыфеадальнай, аб'ектыўна-буржуазнай рэвалюцыі клікаў К *Каліноўскі Рэвалюцыя 1905—07* і *Лютаўская рэвалюцыя 1917* у Расійскай імперыі былі буржуазна-дэмакратычнымі Ад рэвалюцый гэтага тыпу ў краінах першага эшалона капіталізму яны адрозніваліся не толькі найшырэйшым удзелам пралетарыяту і сялянства, якія выстаўлялі свае асобыя патрабаванні, але і вызначальнай роляю пралетарыяту, што выступаў у саюзе з сялянствам, формамі і метадамі барацьбы (стачка, паўстанне), наяўнасцю магутных нац -вызв рухаў Іх паліт сілы былі размеркаваны не па двух (урадавы і рэвалюцыйны), а па трох лагерах (урадавы, ліберальна-дэмакратычны, рэвалюцыйны) Адпаведным чынам фарміраваліся і партыі Спецыфіка расійскіх рэвалюцый была абумоўлена прынцыпова іншымі, чым на Захадзе, канкрэтна-гіст ўмовамі, асаблівасцямі капіталіст. эвалюцыі Расіі Больш позні старт капіталізму пры больш хуткіх тэмпах яго развіцця абумовіў збліжэнне рознačасовых форм капіталіст вытворчасці — рамеснай, мануфактурнай, фабрычна-заводскай (у краінах Зах Еўропы яны паслядоўна змянялі адна адну) У адрозненне ад краін першага эшалона капіталізму, дзе аграрны пераварот папярэднічаў прамысловаму і быў вынікам Б р., у Расійскай імперыі ён меў характар працяглай барацьбы за прускі (паступовая капіталізацыя буйной памешчыцкай гаспадаркі) ці амерыканскі (фермерскі) шлях развіцця, тут захоўвалася выключна высокая ўдзельная вага буйнамаянтковага землеўладання Гэтыя асаблівасці фарміравання капіталіст укладу ў эканоміцы Расіі вызначылі і спецыфіку фарміравання паліт структуры грамадства Калі ў краінах Зах Еўропы першай свае партыі стварала буржуазія, а потым афарміліся дробнабуржуазныя і нарэшце сацыял-дэмакратычныя, то ў Расіі, наадварот, гэты працэс пачаўся з утварэння сацыял-дэмакратычнай партыі. Збліжэнне і ўзаемапранікненне розных эпох — феадальнай і капіталістычнай, а таксама стадый і фаз уласна капіталістычнага ўкладу абумовілі надзвычайную глыбіню і вастрыню крызісу сістэмы, накладанне адзін на адзін дэмакратычных і пралетарскіх рухаў, адасобленых паміж сабой у краінах Захаду інтэрваламі у сотні гадоў. Змест і ход расійскіх рэвалюцый асвячала не толькі бурж -дэмакр ідэалогія (як у ранніх Б. р), але і сацыялістычная (народніцкая і сацыял-дэмакратычная) Асаблівасці фарміравання і функцыяніравання паліт структуры ў канкрэтных умовах Расіі, наяўнасць не супадаючых паміж сабой, але апазіцыйных рэжыму ідэалогій прадвызначалі вострую ідэйную барацьбу паміж ліберальна-дэмакратычным і рэвалюцыйным лагерамі і ўнутры кожнага з іх Не было адзінства і ў радах расійскай сацыял-дэмакратыі Яе памяркоўнае крыло (меншавікі, Бунд,

частка Бел. сацыяліст. грамады, літоўскай і латышскай сацыял-дэмакр. партый) выступала за пераважна рэфармісцкі шлях, лічыла лагічнай гегемонію буржуазіі ў бурж.-дэмакр. рэвалюцыі, устанаўленне на працяглы час буржуазнай, дэмакратычнай рэспублікі. Ультрарадыкальнае левае крыло (бальшавікі) выступала за рэв. метады барацьбы (стачка, якая перарастае ва ўсенар. паўстанне), разглядала пралетарыят і сялянства ў якасці рухаючых сіл рэвалюцыі, лічыла магчымым і неабходным яе паслядоўнае развіццё да ўстанаўлення рэв.-дэмакр. дыктатуры пралетарыяту і сялянства, якая павінна забяспечыць неадкладнае перарастанне бурж.-дэмакр. рэвалюцыі ў сацыялістычную.

У расійскіх бурж.-дэмакр. рэвалюцыях выявіўся востры характар нац. супярэчнасцей. Пры каласальных адрозненнях ва ўзроўні эканам. развіцця, культ. і гіст. традыцыях нац. рэгіёнаў барацьба супраць рэшткаў феадалізму (самадзяржаўя, буйнога памешчыцкага землеўладання, саслоўнага ладу) суправаджалася ростам нац. самасвядомасці народаў Расіі і ўзнікненнем нац.-вызв. руxаў — сялянскіх паводле масавай сац. базы. Некаторыя з іх, у т. л. беларускі, узніклі і развіваліся без нац. буржуазіі на чале; ідэолагам і кіраўніком іх выступала пераважна інтэлігенцыя. Буржуазна-дэмакр. рэвалюцыі ў Расіі, ахапіўшы ўсю імперыю, у кожным эканам. і нац. рэгіёне мелі асаблівасці, абумоўленыя канкрэтнай сітуацыяй, структурай і групоўкай класава-паліт. сіл. На Беларусі такімі асаблівасцямі былі: больш нізкі ўзровень развіцця прамысловасці, разгрупаванай пераважна па сярэдніх і дробных, а таксама рамесных прадпрыемствах, і, як вынік, малая ўдзельная вага буйнаіндустрыяльнага пралетарыяту; больш высокая ўдзельная вага буйнамаянтковага землеўладання; вузейшы пласт заможнага сялянства і шырэйшы — бяднейшага і сярэдняга; неаднароднасць нац. складу насельніцтва пры своеасаблівым размеркаванні яго па сац. групах: рабочыя на буйных прадпрыемствах і чыгунках — пераважна беларусы і рускія, рамеснікі — пераважна яўрэі, сялянства (больш за 80 % насельніцтва) — беларусы. Слой уласна беларускай буржуазіі (прамысловай, фінансавай, гандлёвай) фактычна не сфарміраваўся. Пануючае становішча ў прамысл. вытворчасці, гандлі і банкаўскай справе заняла яўрэйская буржуазія, потым ішла руская і мясцовая паланізаваная буржуазія. Буйныя землеўласнікі-дваране лічылі сябе (або сапраўды былі) палякамі ці рускімі. Своеасаблівым пластом дваранства на Беларусі з'яўлялася шляхта, якая таксама была часткова паланізавана, але паступова ўсё больш усведамляла сваю прыналежнасць да бел. нацыі. Колькасны і якасны стан сацыяльна-паліт. сіл на Беларусі, сац., нац. і рэлігійная неаднароднасць іх складу прадвызначылі і асаблівасці іх групоўкі: ліберальны і рэв.-дэмакр. лагеры аказаліся адносна слабейшымі, чым у прамысловых і паліт. цэнтрах краіны. Гэтым былі абумоўлены асаблівасці рэв. руху на Беларусі: эфект «запазнення», калі рэв. выступленні нярэдка пачыналіся тут як водгук на выступленні ў інш. рэгіёнах імперыі; меншы напал і вастрыня стачачнага руху, які не ўзняўся да ўзроўню паўстання; шырокі размах сялянскага руху; разгортванне бел. нац.-вызв. руху.

Пасля задушэння рэвалюцыі 1905—07 царскі рэжым быў не ў стане хутка і паслядоўна ажыццявіць пачатыя П. А. *Сталыпіным* сац.-эканам. рэформы, што вяло да наспявання новай рэвалюцыі. Яна была выклікана крызісам канкрэтнай гістарычнай формы капіталізму, яе расійскай мадыфікацыі, што сфарміравалася ў структуры архаічнай сацыяльна-палітычнай сістэмы — феад. манархіі. Першая сусв. вайна абвастрыла ўсе супярэчнасці ў грамадстве і непамерна пагоршыла становішча нар. мас. Лютаўская бурж.-дэмакр. рэвалюцыя 1917 закончылася звяржэннем царызму. Аднак ва ўмовах надзвычай вострага і глыбокага крызісу Часовы ўрад, які не вызначаўся рашучасцю і прадбачлівасцю, не здолеў ажыццявіць чакаемых сац. рэформ, вырашыць найперш пытанні аб зямлі і міры. Верх пачалі браць крайнія леварадыкальныя сілы на чале з бальшавікамі. У пошуку некапіталістычных форм развіцця грамадства рэвалюцыя зайшла далей за звычайную бурж.-дэмакратычную і саслізнула да новага сацыяльнага выбуху — *Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917*. Ідэі дэмакратыі, прававой дзяржавы, эканам. і паліт. свабоды грамадзян засталіся нерэалізаванымі. Доўгае панаванне ў Расіі феад. структур і абумоўленыя гэтым векавыя традыцыі аўтарытарнай улады, рэзкая палярызацыя грамадства на багатых і масу бедных, адсутнасць моцнага «сярэдняга класа» і ў выніку слабасць цэнтрысцкіх паліт. сіл, амаль поўнае бяспраўе працоўных, нізкі ўзровень палітычнай культуры ў грамадстве прывялі ў канчатковым выніку да ўсталявання адміністрацыйна-камандна́й, таталітарнай сістэмы. Неабходнасць выхаду грамадства з такога стану зноў паставіла на парадак дня неабходнасць вырашэння дэмакр. задач: адраджэнне рынкавых адносін, стварэнне дэмакр. інстытутаў улады, забеспячэнне правоў і свабод чалавека.

*Літ.:* Маркс К. Классовая борьба во Франции с 1848 по 1850 г. // Маркс К., Энгельс Ф. Соч. 2 изд. Т. 7; Яго ж. Буржуазия и контрреволюция // Там жа. Т. 6; Ленін У. І. Дзве тактыкі сацыял-дэмакратыі ў дэмакратычнай рэвалюцыі // Тв. Т. 9 (Полн. собр. соч. Т. 11); Яго ж. Пабедаиосная рэвалюцыя // Там жа. Т. 8 (Полн. собр. соч. Т. 10); Яго ж. Аб задачах пралетарыята ў данай рэвалюцыі // Там жа. Т. 24 (Полн. собр. соч. Т. 31); Яго ж. Дзяржава і рэвалюцыя // Там жа. Т. 25 (Полн. собр. соч. Т. 33); Богданов А. А. Вопросы социализма: Работы разных лет. М., 1990; Троцкий Л. Д. К истории русской революции. М., 1990; Волобуев О. В. Идейно-теоретическая борьба по вопросам истории революции 1905—1907 гг. М., 1984; Игнатенко И. М. Февральская буржуазно-демократическая революция в Белоруссии. Мн., 1986; Король А. С. Большевики Белоруссии в революции 1905—1907 годов. Мн., 1986; Старцев В. И. 27 февраля 1917. М., 1984; Шепелев Л. Е. Царизм и буржуазия в 1904—1914 гг.: Пробл. торгово-промышл. политики. Л., 1987; Карр Э. История Советской России. Кн. 1. Большевистская революция, 1917—1923: Пер. с англ. Т. 1—2. М., 1990; Рабинович А. Большевики приходят к власти: Революция 1917 г. в Петрограде: Пер. с англ. М., 1989. *А. С. Кароль.*

**БУРЛА́ЦТВА,** перамяшчэнне суднаў па рэках супраць цячэння пры дапамозе ручной цягі. Было выклікана ростам перавозак пры тэхн. недасканаласці рачнога транспарту. Б. вядома на ўсіх буйных рэках Беларусі: Дняпры, Прыпяці, Нёмане, Бугу, Зах. Дзвіне, Бярэзіне, а таксама на Дняпроўска-Бугскім і Агінскім каналах. У 17—19 ст. Б. на Беларусі стала самастойным адыходніцкім промыслам (гл. *Адыходніцтва*). У бурлакі наймаліся мужчыны (зрэдку і жанчыны) вял. фізічнай сілы ва ўзросце ад 20 да 50 гадоў. Цяжкія ўмовы працы і бязлітасная эксплуатацыя рабілі жыццё бурлака невыносным. На Беларусі вядомы 2 спосабы перамяшчэння суднаў з дапамогай бурлацкай цягі — лінай і завозам (падачай). У першым выпадку бурлакі ішлі берагам і цягнулі судна за канат (даўжынёй да 50 м), які прымацоўваўся да мачты судна ці да спец. шаста. Для цягі шкута, напр., патрабавалася 50—100 бурлакоў, лайбы — 4—5. Пры завозе (падачы) грузавое судна спынялася на станавым якары, а завозны якар з канатам адвозілі на завознай лодцы наперад на даўжыню каната-падачы (100—400 м) і апускалі ў ваду. Другі канец каната падаваўся на судна і выбіраўся на палубу бурлакамі. У залежнасці ад грузападымальнасці суднаў у завозе ўдзельнічалі 8—30 чалавек. Часам завозны канат на палубу выбіралі пры дапамозе калаўрота, умацаванага ў насавой частцы судна. Уверх па Прыпяці, Ясельдзе, Бярэзіне, а таксама на Агінскім, Дняпроўска-Бугскім каналах лінай цягнулі плыты лесу (плытпас даўжынёй 100 м цягнулі звычайна 15 бурлакоў-пасавых). Узнікненне і пашырэнне параходства ў канцы 19 ст. выцесніла Б. *Н. І. Буракоўская.*

**БУРМІ́СТР** (ад ням. Bürgermeister), выбарная асоба ў магістрат — адм. і судовы орган гар. самакіравання ў гарадах Беларусі, якія мелі *магдэбургскае права* ў 14—18 ст. *Войт* і прызначаныя ім выбаршчыкі (12—20 чал.) выбіралі на пасаду Б. гараджан з заможных вярхоў гарадскога (мяшчанскага) насельніцтва — купецтва, цэхмістраў. У 16—1-й пал. 17 ст. пабольшала роля сходу гараджан у працэдуры выбараў рады і яе галавы. Сход прапаноўваў некалькі кандыдатур, з якіх войт зацвярджаў на гэту пасаду аднаго, часцей 2 чал. Б. выбіралі тэрмінам на 1 год, пасля сканчэння якога ён рабіў справаздачу перад *радай*. З цягам часу ўстанавіўся прынцып справаздачы Б. на агульным сходзе гараджан. У абавязак Б. ўваходзіла загадванне гар. казной, старшынства па па-

сяджэннях *бурмістраўска-радзецкага суда*, якi разбіраў маёмасныя спрэчкі гараджан. З канца 18 ст. царскі ўрад скасаваў магдэбургскае права на Беларусі. Б. замяніў *гарадскі галава*, якога прызначалі органы ўлады.

*Літ.:* Дружчыц В. Войты і іх улада ў беларускіх гаспадарскіх местах з майдэборскім правам // Запіскі аддзела гуманітарных навук Ін-та беларускай культуры. Мн., 1928. Кн. 3. Працы класа гісторыі, т. 2; Яго ж. Магістрат у беларускіх местах з майдэборскім правам у XV—XVII стст. Б. м.,1929; Грицкевич А. П. Частновладельческие города Белоруссии в XVI—XVIII вв.: (соц.-экон. исслед. истории городов). Мн., 1975; Копысский З. Ю. Социально-политическое развитие городов Белоруссии в XVI — первой половине XVII в. Мн., 1975; Alexandrowicz S. Miasta Białorusie w XVI i pierwszej połowie XVII w. // Kwartalnik historyczny. 1968. Z. 2; Bardach J. O dawnej i niedawnej Litwie. Poznań, 1988. *З. Ю. Капыскі.*

**БУРМІСТРАЎСКА-РАДЗЕЦКІ СУД,** мясцовы суд для гараджан у ВКЛ. Дзейнічаў адначасова з *войтаўска-лаўніцкім судом* у гарадах, якія атрымалі прывілей на *магдэбургскае права*. У склад суда ўваходзілі гар. бурмістры і радцы, колькасць якіх залежала ад памераў горада. Суд разглядаў пераважна нязначныя правапарушэнні мяшчан, цяжбы купцоў і рамеснікаў. *Т. І. Доўнар.*

**БУРСЕВІЧ** Максім Тарасавіч (9.8.1890, в. Чамяры Слонімскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Слонімскі р-н — 3.11.1937), дзеяч нац.-вызваленчага руху ў Зах. Беларусі. Вучыўся ў Слонімскім 2-класным вучылішчы. З 1911 настаўнічаў на Кобрыншчыне (вёскі Старое Сяло, Крупчыцы, цяпер Жабінкаўскі р-н), у 1915—21 — на Харкаўшчыне. Пасля вяртання ў 1921 на радзіму працаваў настаўнікам польскай школы ў в. Каменны Лог Віленскага пав. За спробы арганізаваць прыватныя бел. школы ў Навагрудскім пав. і роднай вёсцы быў двойчы арыштаваны. З пач. 1920-х гадоў падтрымліваў сувязь з бел. арг-цыямі ў Вільні. У 1922 яго кандыдатура вылучана Бел. цэнтр. выбарчым к-там на пасла ў польскі сейм. У чэрв. 1925 увайшоў у 1-ы актыў *Беларускага пасольскага клуба*. 1.7.1926 кааптаваны ў склад ЦК *Беларускай сялянска-работніцкай грамады* (БСРГ) і выбраны кіраўніком яе Цэнтр. Сакратарыята. Загадваў фінансавымі сродкамі БСРГ, ствараў яе мясц. камітэты, наладжваў іх работу. У лют. 1927 арыштаваны і на судовым *працэсе 56-і* (1928) прыгавораны да 8 гадоў турмы (у 1929, паводле рашэння апеляцыйнага суда, тэрмін зняволення скарочаны да 4 гадоў). Пакаранне адбываў у турмах Лукішкі, Вронкі, Каранова. У сярэдзіне 1930 пасля вызвалення некаторы час жыў у Вільні, займаўся грамадска-паліт. дзейнасцю. У 1931 у выніку абмену паліт. зняволенымі трапіў у СССР. Жыў у Мінску. Працаваў членам прэзідыума і в. а. кіраўніка аддзела культуры і навукі Дзярж. планавай камісіі (Дзяржплана) БССР. Удзельнічаў у рабоце камісіі па вывучэнні Зах. Беларусі пры АН БССР. Чл. ЦВК БССР. У 2-й пал. 1933 беспадстаўна абвінавачаны ў т. зв. нацыянал-дэмакратызме, арганізацыі антысав. цэнтра, «заснаванага для аддзялення Беларусі ад СССР на карысць Польшчы». 9.1.1934 асуджаны да вышэйшай меры пакарання, якая была заменена 10 гадамі зняволення. Пакаранне адбываў на Салаўках і будаўніцтве Беламорска-Балтыйскага канала. 9.10.1937 тройкай УНКУС па Ленінградскай вобл. асуджаны да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны. Рэабілітаваны па абодвух прыгаворах 16.8.1956.

М. Т. Бурсевіч.

Ф. Я. Буслаў.

Г. К. Бухавец.

*Літ.:* Бергман А. Максім Бурсевіч: (Кароткі біягр. нарыс) // Беларускі каляндар, 1981. Беласток, 1981. *Я. І. Мікула.*

**БУСЛАЎ** Фёдар Яфімавіч (1875, Быхаўскі пав.— ?), дэпутат 1-й Дзяржаўнай думы (1906) ад сялян Магілёўскай губ. Скончыў Гомельскае тэхн. вучылішча. Адзін з актывістаў Усерасійскага чыгуначнага саюза. У Думе ўваходзіў у «Трудавую групу» (гл. *Трудавікі*), быў членам яе Часовага камітэта. Адстойваў інтарэсы працоўных сялян. Падпісаў агр. праект «Трудавой групы» («праект 104-х»), які прадугледжваў ліквідацыю памешчыцкага землеўладання. Падтрымліваў пастаянныя сувязі з выбаршчыкамі — сялянамі Быхаўскага пав., на аснове іх наказаў і скаргаў рабіў у Думе запыты. Выступаў з артыкуламі ў газ. *«Могилёвский голос»*. Далейшы лёс невядомы.

*Літ.:* Боиович М. М. Члены Государственной думы: (Портреты и биографии): Первый созыв 1906—1911 г. М., 1906; Первая Государственная дума: Алф. сп. и подробные биогр. и характеристики членов Государственной думы. М., 1906. *М. А. Марцюхова.*

**БУТАЎТ-АНДЖАЙКОВІЧ** Стафан Аляксандравіч, гл. *Андрайковіч С. А.*

**БУТКЕВІЧ** Варвара Эдмундаўна (1886, Магілёўская губ.— 1938), удзельніца рэвалюцыйнага руху. Скончыла Магілёўскую жаночую гімназію, эканам. ф-т Брусельскага ун-та (1912). З 1904 у рэв. руху ў Варшаве, чл. левага крыла Польскай сацыяліст. партыі (ППС). Неаднаразова была арыштавана і зняволена ў турму. З 1912 на парт. рабоце ў Лодзі, Варшаве. З 1913 у рабочым т-ве «Прамень» у Пецярбургу, адзін з рэдактараў газ. «Луч». Удзельніца Кастр. рэвалюцыі 1917 у Петраградзе. Са снеж. 1917 чл. Польскага камісарыята пры Наркамаце па справах нацыянальнасцей. У 1919 чл. польскай секцыі Магілёўскага губ. аддзела нар. асветы, выкладчыца курсаў чырв. камандзіраў у Смаленску. У 1921—23 заг. польскай секцыі Камуніст. ун-таў імя Свярдлова, нац. меншасцей Захаду імя Мархлеўскага ў Маскве. З 1926 выкладчыца грамадскіх навук у Камуніст. ун-це Беларусі імя Леніна, БДУ. *Э. А. Карніловіч.*

**БУТКЕВІЧ** Леанід Уладзіміравіч (31.12. 1918, в. Хотліна Лепельскага пав. Віцебскай губ., цяпер Чашніцкі р-н — 12.11.1985), удзельнік Вял. Айч. вайны. Герой Сав. Саюза (1943). Скончыў Аршанскі тэхнікум чыг. транспарту (1935). Працаваў дзяжурным, начальнікам чыг. станцый. У Чырв. Арміі з 1937. Удзельнік вызвалення Зах. Украіны ў 1939. У Айч. вайну з чэрв. 1941 на Паўд.-Зах., Паўд., Закаўказскім, Паўн.-Каўказскім франтах. Снайпер лейтэнант Б. вызначыўся ў баях за Каўказ, Кубань, Крым. Знішчыў 327 гітлераўцаў, з процітанкавага ружжа заглушыў 22 кулямётныя пункты ворага, падрыхтаваў 125 снайпераў. Са снеж. 1945 у запасе. Жыў і працаваў у г. Есентукі. У г. Чашнікі на будынку СШ № 1, дзе ён вучыўся, мемарыяльная дошка.

**БУХАВЕЦ** Георгій Кліменцьевіч [5(18). 1.1901, Віцебск — 27.5.1967], савецкі ваенны дзеяч. Ген.-лейтэнант (1944). З 13 гадоў быў дрывасекам, пастухом,

шліфоўшчыкам шкла ў Віцебску. У Чырв. Арміі з 1920. Скончыў Віцебскія пях. камандныя курсы (1922), курсы «Выстрал» (1938), Вышэйшыя акад. курсы пры Ваен. акадэміі Генштаба (1948). З 1938 нач. штаба стралк. корпуса. Удзельнік грамадз. вайны, вызвалення Зах. Беларусі ў 1939. У Вял. Айч. вайну з 1941 на Паўн., Зах., Ленінградскім, 3-м Бел., 1-м Укр. франтах: нач. штаба стралк. корпуса, камандзір дывізіі, нач. штаба арміі. У 1945—53 нач. штаба Харкаўскай, Таўрыйскай, Прыволжскай ваен. акруг.

**БУ́ХАЎ** (Buchow) Данііл Прынтц фон [Д а н і і л П р ы н ц з Б у х а в а, Д а н і і л к н я з ь ф о н Б у х а ў, 14.9.1546, г. Львоў або Лемперк (Чэхія) — 1608], дыпламат германскага імператара, пісьменнік. Служыў саветнікам апеляцыйнага суда ў Чэхіі. Меў у Чэхіі маёнткі Фалькенаў і Кросен. Ведаў ням., лац., чэшскую мову. Чытаў кнігі на бел. і рус. мовах. Як адукаваны чалавек, меў давер у імператараў Максіміляна II і Рудольфа II. Двойчы (у 1576 і 1578) ездзіў як пасол у Маскву да Івана IV Грознага. Падчас пасольства 1576 дамагаўся садзейнічання Івана IV у абранні на трон Рэчы Паспалітай аўстрыйскага эрцгерцага Эрнста, мал. сына Максіміляна II і брата Рудольфа II. На элекцыйным сойме каралём Рэчы Паспалітай быў абраны не Эрнст, а Стэфан *Баторый*. Адначасова Івану IV было прапанавана вывесці рус. войскі з Лівоніі, ад чаго той адмовіўся. У 1577 Б. па загадзе імператара Максіміляна II склаў справаздачу з пасольства (9 раздзелаў, на лац. мове), якая фактычна стала апісаннем Масковіі ў час Лівонскай вайны. У ёй змешчана шмат звестак пра Расію і яе гісторыю, Лівонскую вайну, у т. л. і на тэр. Беларусі, узяцце рус. войскамі ў 1563 Полацка, адкуль, паводле звестак Б., вывезена ў Маскву шмат тысяч людзей, пра шырока вядомую ў Еўропе бітву каля Оршы ў 1514, дзе кн. Канстанцін Астрожскі разбіў рус. войска. Твор Б. лічыцца праўдзівым па верагоднасці і дакладнасці змешчаных звестак. Б. ведаў рус. мову, таму пры напісанні справаздачы карыстаўся рус. рукапісамі, граматамі і кнігамі. У запісцы ён змясціў лісты Івана IV да паслоў імператара і ад курляндскага герцага Готгарда Кетлера да яго. Гэты твор Б. выдадзены ৲ 1668 у Нейсе, тройчы (1679, 1681, 1689) перавыдаваўся ў Губене. У 1876 І. А. Ціхаміраў пераклаў справаздачу Б. і выдаў яе на рус. мове.

*Тв.*: Начало и возвышение Московии // Чтения в имп. о-ве истории и древностей Российских при Московском ун-те. 1876. Кн. 3, ч. 4; Кн. 4, ч. 4. *А. П. Грыцкевіч.*

**БУХО́НКА** Пётр Мікалаевіч [29.6(12.7). 1906, г. Добруш — 5.2.1944], удзельнік Вял. Айч. вайны. Герой Савецкага Саюза (1944). На фронце з 1941. Сапёр Б. вызначыўся 26.9.1943 пры фарсіраванні Дняпра на Украіне, зрабіўшы 2 рэйсы на правы бераг. У час 2-га рэйса паранены Б. закрыў прабоіны ў лодцы, чым выратаваў байцоў і даставіў іх на бераг. Памёр ад ран. Пахаваны ў брацкай магіле ў с. Бузулукі Крынічанскага р-на Днепрапятроўскай вобл. Яго імем названа вуліца ў Добрушы, на цэлюлозна-папяровым камбінаце «Герой працы», дзе працаваў Б., мемарыяльная дошка.

П. М. Бухонка.

**БУХТУ́ЕЎ** Міхаіл Арцёмавіч (23.11. 1925, пас. Кара-Хаш Таджынскага р-на Тувінскай АССР — 25.6.1944), удзельнік баёў на Беларусі ў Вял. Айч. вайну. Герой Сав. Саюза (1944). Працаваў на прыіску. З чэрв. 1944 на 1-м Бел. фронце; сяржант Б. вызначыўся 25.6.1944 у баі за ст. Чорныя Брады Акцябрскага р-на Гомельскай вобл. Экіпаж танка, камандзірам якога быў лейтэнант Дз. Я. Камароў, а механікам-вадзіцелем Б., знішчыў 2 варожыя гарматы, каля ўзвода пяхоты. Сваёй падпаленай машынай тараніў і вывеў са строю бранепоезд праціўніка. У час тарана Б. загінуў. Пахаваны ў в. Пратасы Акцябрскага р-на. На месцы подзвігу пастаўлены памятны знак, у в. Чорныя Брады — мемарыяльная дошка экіпажу; імя Б. навечна занесена ў спіс танкавай часці, дзе ён служыў.

М. А. Бухтуеў.

**БУЦЬКО́** Павел Пятровіч [1(14).2.1901, в. Калядзічы Пружанскага р-на — 14.12. 1986], дзеяч рэв. руху ў Зах. Беларусі, рэвалюцыянер-інтэрнацыяналіст. У 1924 уступіў у КПЗБ. Адзін са стваральнікаў арг-цый КПЗБ і КСМЗБ у Палескім ваяводстве. У 1925—27 за рэв. дзейнасць зняволены ў турмах Пружан, Брэста. Уцёк праз Германію і Францыю на Кубу. У 1927—37 на падп. рабоце ў Кампартыі Кубы. Удзельнік нац.-рэв. вайны ў Іспаніі, капітан інтэрнац. брыгады 46-й ударнай камуніст. дывізіі (1937—38). Ваяваў на Мадрыдскім і Арагонскім франтах. З канца 1938 у Францыі, потым зноў на Кубе, дзе працаваў у апараце ЦК Кампартыі. У час 2-й сусв. вайны матрос гандл. флоту ЗША, які дастаўляў грузы ў СССР. З 1949 на радзіме, зведаў ганенні. Да 1964 працаваў у калгасе. *М. П. Клімец.*

П. П. Буцько.

**БУЧЫ́НСКІ** Вінцэнцій (17.3.1789, Беларусь — 29.3.1853), беларускі філосаф, аб'ектыўны ідэаліст. Скончыў Полацкі езуіцкі калегіум (1809). Выкладаў рыторыку і паэтыку ў езуіцкіх калегіумах Мсціслава і Віцебска, потым прафесар філасофіі Полацкай езуіцкай акадэміі. Стварыў першы на Беларусі літ.-навуковы час. *«Месенчнік Полоцкі»*, на працягу ўсяго часу выдання быў яго рэдактарам (1818—20). Змясціў у часопісе свой артыкул «Гістарычнае даследаванне аб слушнасці прысуду, паводле якога быў распушчаны ордэн тампліераў», дзе палемізаваў з час. *«Тыгоднік Віленьскі»*. Набыў шырокую вядомасць удзелам у палеміцы 1817—18 паміж прафесарамі Віленскага ун-та і Полацкай езуіцкай акадэміі вакол паэмы Н. Мусніцкага «Палтава» (Полацк, 1803). Яго палемічныя выступленні былі ў 1818 ананімна выдадзены ў Полацку. Пасля забароны ў 1820 дзейнасці ордэна езуітаў у Расійскай імперыі Б. больш як 20 гадоў выкладаў філасофію ў каталіцкіх навучальных установах у Цярнопалі, Грацы, Лінцы, Інсбруку (Аўстрыя). У 1843—44 на аснове сваіх лекцый выдаў у Вене 3-томную працу «Філасофскія развažанні» (на лац. мове). Першы том уключаў логіку, другі — метафізіку, трэці — этыку. Разглядаючы этыку як уводзіны ў палітыку, прыводзіў шмат прыкладаў з гісторыі Рэчы Паспалітай, у т. л. Беларусі. Прытрымліваўся тэалагічнай канцэпцыі гісторыі. У 1848 г. эміграваў у Бельгію, выкладаў філасофію ў г. Намюр, затым у Лёвенскім (Лувенскім) ун-це, дзе і памёр. Пакінуў багатую рукапісную спад-

чыну (не даследавана), якая ўключае працы па гісторыі філасофіі, гісторыі Польшчы, Беларусі, праваслаўя ў Расіі і інш.

*Тв* Rozbior wiadomości pomieszczonych w recenzji poematu «Połtawa» Połock, 1818, Institutiones doctrinae Religionis in quibus principia Philosophica ad veritatem Religionis applicatur. Wiennae, 1842

*Літ* Bibliografia filozofii polskiej, 1831—1864 Warszawa, 1960, Brown J Biblioteka pisarzow assystencyi polskiej Towarzystwa Jezusowego Poznan, 1862, Straszewski M. Dzieje filozoficznej myśli polskiej w okresie porozbiorowym T 1 Od rozbiorow do r 1831 Krakow, 1912, Załęski St Jezuici w Polsce porozbiorowej Cz 1 Krakow, 1907, Шалькевіч В Ф З гісторыі філасофскай і грамадска-палітычнай думкі Беларусі ў першай трэці XIX ст // Весн. БДУ. Сер. 3 1992 № 2 *В Ф. Шалькевіч.*

**БШПР**, гл. *Беларускі штаб партызанскага руху.*

**БЫВАЛЬКЕ́ВІЧ** Палікарп Рыгоравіч [19.2(3.3) 1855 — пасля 1921], беларускі журналіст. Меў вышэйшую адукацыю. Працаваў выкладчыкам Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі, з 1891 рэдактар газет «Виленский вестник», «Западный вестник», «Окраины России». У 1904 заснаваў у Мінску газ. *«Белорусский вестник»* вялікадзяржаўна-шавіністычнага кірунку. У 1907 увайшоў у «Рускае ўскраіннае таварыства». У 1915 рэдактар «Вестника Всероссийского общества попечения о беженцах». У 1918 чл. *Беларускага вольна-эканамічнага таварыства* ў Петраградзе. У 1921 служачы агульнага аддзела Рэўваенсавета Рэспублікі ў Маскве. Аўтар фальклорна-этнагр. даследавання «Іван Купала (у в. Вуглы Слуцкага пав. Мінскай губ.)» (Этнографическое обозрение. 1891. № 4)

*Літ* Конон В М. Проблемы искусства и эстетики в общественной мысли Белоруссии начала XX в Мн, 1985 *В У Скалабан*

**БЫ́КАЎ** Васіль Уладзіміравіч (н. 19.6 1924, в. Бычкі Ушацкага р-на), беларускі пісьменнік, грамадскі дзеяч. Нар. пісьменнік Беларусі (1980). Герой Сац. Працы (1984).

Нарадзіўся ў сялянскай сям'і. Вучыўся на скульпт. аддзяленні Віцебскага мастацкага вучылішча (1939—40), у школе ФЗН. У чэрв. 1941 экстэрнам здаў экзамены за дзесяты клас. У пач. Вял. Айч. вайны мабілізаваны на абарончыя работы. З лета 1942 у Чырв. Арміі, скончыў Саратаўскае пях. вучылішча. З 1943 на 2-м і 3-м Укр франтах. Двойчы паранены, ляжаў у шпіталях. У 1944 бацькі Б. атрымалі паведамленне, што іх сын загінуў у баях з ням.-фаш. захопнікамі каля Кіравеграда (гэта было засведчана і на абеліску). З дзеючай арміяй прайшоў па Румыніі, Балгарыі, Венгрыі, Югаславіі, Аўстрыі; ст. лейтэнант, камандзір узвода палкавой, потым армейскай артылерыі. Служыў на Украіне, Беларусі, на Д. Усходзе. Дэмабілізаваўся ў 1947, працаваў у Гродне ў мастацкіх майстэрнях, у рэдакцыі газ. «Гродненская правда». У 1949—55 зноў у Сав. Арміі. Пасля

В Быкаў.

дэмабілізацыі (маер запасу), працаваў літ. супрацоўнікам, літ. кансультантам газ. «Гродненская правда». У 1972—78 — сакратар Гродзенскага аддзялення Саюза пісьменнікаў БССР. З 1978 жыве ў Мінску, на творчай рабоце.

Сваю творчую біяграфію пісьменнік адлічвае з апавяданняў «Смерць чалавека», «Абознік», напісаных у 1951. З героя апавядання «У першым баі» Мікалая Беражнога пачаліся героі Б.— маладыя афіцэры і салдаты з трагічным франтавым лёсам. Першы зб. «Ход канем» (1960) раскрывае пасляваен. жыццё сав. людзей, іх узаемаадносіны ў працы, побыце, паказвае нараджэнне новых якасцей у характары чалавека, асабліва ў моладзі. Канец 1950 — пач 1960-х гадоў — час творчых пошукаў пісьменніка. Ён піша сатырычныя мініяцюры, гіст.-прыгодніцкую аповесць «Апошні баец», серыю навел на маральна-этычныя тэмы, 2-і цыкл ваен. апавяданняў, нарысы, рэцэнзіі У кн. «Жураўліны крык» (1960) пісьменнік зноў вярнуўся да ваен. тэмы. У аповесцях «Здрада» (1961), «Трэцяя ракета» (1962, Літ. прэмія імя Я. Коласа 1964), «Пастка» (1964) і інш. дадзена гранічна праўдзівае адлюстраванне вайны. Суровая праўда і бескампраміснасць твораў Б. выклікалі адмоўную ацэнку афіц. крытыкі. Адзін з самых вострапраўдзівых твораў «Мертвым не балиць» (1965) убачыў свет спачатку ў часопісах «Маладосць» і «Новый мир» дзякуючы грамадз мужнасці іх рэдактараў П Панчанкі і А. Твардоўскага. Пісьменніка абвінавачвалі ў скажэнні праўды, ачарненні сав. воінаў. Па камандзе ідэолагаў КПСС М. Суслава, М. Зімяніна, У. Сеўрука былі арганізаваны калект. пісьмы «незадаволеных» быкаўскім адлюстраваннем падзей вайны. Аповесць «Мертвым не баліць» была ўключана ў 4-ы том збору твораў Б толькі па патрабаванні перадавой грамадскасці і чытачоў. У канцы 1960-х гадоў Б. звярнуўся да тэмы партыз. барацьбы бел. народа. У цыкле аповесцей «Круглянскі мост» (1969), «Сотнікаў» (1970), «Абеліск» (1971, разам з франтавой аповесцю «Дажыць да світання», 1973, Дзярж. прэмія СССР 1974), «Воўчая зграя» (1974, разам з аповесцю з франтавога жыцця «Яго батальен», 1975, Дзярж. прэмія БССР імя Я. Коласа 1978), «Пайсці і не вярнуцца» (1978) — праблема трагічнага выбару ў складаных умовах акупацыі і партыз. барацьбы супраць фашыстаў. Не менш востра пісьменнік паказаў падзеі калектывізацыі, да якіх упершыню звярнуўся ў аповесці «Знак бяды» (1982, Ленінская прэмія 1986), дзе агалена-праўдзіва, з болем паказаў бессэнсоўнасць, жорсткасць сталінскіх метадаў абагульнення сял. гаспадарак, вытручванне ў селяніна-працаўніка любові да роднае зямлі, яго гаспадарчых традыцый. Гэта ж тэма ў аповесці «Аблава» (1989), дзе ўпершыню ў бел. л-ры паказаны лёс спецперасяленца, высланага з сям'ёй на Поўнач. Б.-публіцыст актыўна выступае за дэмакр. адраджэнне бел. нацыі праз абуджэнне яе паліт. і нац. свядомасці, вяртанне народу набыткаў нац. культуры і гіст. праўды, за ажыццяўленне карэнных эканам і дзярж. пераўтварэнняў на Беларусі.

Па творах Б. пастаўлены кінафільмы («Трэцяя ракета», 1963; «Альпійская балада», 1966, «Дажыць да світання», 1975; «Воўчая зграя», 1976; «Абеліск», 1977; «Узыходжанне», 1977, паводле аповесцей «Сотнікаў»; «Знак бяды», 1985; тэлефільм «Доўгія вёрсты вайны», 1976, паводле аповесці «На ўсходзе сонца»). Інсцэніраваны яго шматлікія аповесці («Абеліск», «Альпійская балада», «Дажыць да світання», «Знак бяды», «Пайсці і не вярнуцца», «Сотнікаў» і інш.). Па яго творах створаны і пастаўлены балет «Альпійская балада» (1967, муз. Я. Глебава), опера «Сцежкаю жыцця» (1980, муз. Г. Вагнера; паводле «Воўчай зграі») Да творчасці Б звярталіся мастакі А. Кашкурэвіч, І. Немагай, Ю. Герасіменка. В. Дашук стварыў пра яго фільм «Узыходжанне» (1985).

Дэпутат Вярх. Савета БССР у 1978—89, нар. дэпутат СССР (1989—91) Чл. сойма **БНФ**, чл. кіраўніцтва гісторыка-асветніцкага т-ва памяці ахвяр сталінізму *«Мартыралог Беларусі»*, прэзідэнт згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» (1990—93).

*Тв.* Выбр тв Т 1—2 Мн, 1974, Збор тв Т 1—4 Мн, 1980—82; На крыжах Выступленні,арт, інтэрв'ю Мн, 1992

*Літ* Вуран В А Васіль Быкаў Нарыс творчасці. Мн., 1976, Лазарев Л И Василь Быков Очерк творчества М, 1979, Дедков И. А. Василь Быков Очерк творчества. М, 1980 *Л С Савік*

**БЫ́КАЎ** Міхаіл Сяменавіч (16.10.1922, г. Жлобін — 30.4.1991), удзельнік Вял Айч. вайны. Герой Сав. Саюза (1946) Працаваў слесарам-мантажнікам на аўтабазе. З 1940 у Чырв. Арміі. Скончыў Адэскую ваен. авіяц. школу пілотаў (1940), Вышэйшыя лётна-тактычныя курсы (1952). З 1941 на Зах., Бранскім, 1-м і 4-м Укр франтах. Камандзір эскадрыллі штурмавога авіяпалка капітан Б зрабіў 174 баявыя вылеты, знішчыў і пашкодзіў 52 варожыя танкі, 12 самалетаў на аэрадромах, каля 200 аўтамашын, 150 павозак, 40 гармат, узарваў 12 складоў з боепрыпасамі. Да 1954 у Сав. Арміі, падпалкоўнік.

**БЫКО́ЎСКІ** Іан (царк. Іоіль; 1707, Мінскае ваяв.— жн. 1798), бібліяфіл, царкоўны дзеяч. Меў шырокую свецкую

і царк. адукацыю. Жыў і працаваў на Міншчыне, працягваў царк. дзейнасць у Чарнігаве, дзе вывучаў гісторыю Кіеўскай Русі. Ведаў шмат стараж. і сучасных моў. У 1776—87 архімандрыт Спаса-Яраслаўскага манастыра, рэктар духоўнай семінарыі ў Яраслаўлі. З 1788 на пенсіі. Сабраў каштоўную б-ку, у ліку манускрыптаў меў «Слова пра паход Ігаравы», які прадаў А. І. Мусіну-Пушкіну. Паводле водгуку апошняга, Б. быў «муж с просвещением и любитель словесности». Некаторыя даследчыкі (Ф. М. Галавенчанка, А. А. Зімін і інш.) прыпісваюць Б. магчымасць стварэння «Слова...». Аўтар кнігі-трактата пра ісціну (1787).

*Літ.:* Моисеева Г. Н. Спасо-Ярославский хронограф и «Слово о полку Игореве». 2 изд. Л., 1984; Кахаиоўскі Г. А. Адчыніся, таямніца часу: Гіст.-літ. нарысы. Мн., 1984. *Г. А. Каханоўскі.*

**БЫКО́ЎСКІ** Ігнацій Якса (1750, в. Пяцеўшчына Мінскага пав., цяпер Мінскі р-н — 1819), філосаф, пісьменнік, перакладчык. Пісаў на польскай мове. Вучыўся ў Мінскай і Віцебскай калегіях. У 1772—75 служыў у рус. арміі, удзельнічаў у паходах супраць туркаў. Пасля 1778 жыў у в. Воўчын (цяпер Камяніецкі р-н), у Мінску, в. Хільчыцы (цяпер Жыткавіцкі р-н). У філас. трактатах «Праблема, прапанаваная для вырашэння...» (Мн., 1790), «Сялянскі роздум» (Вільня, 1799) у духу французскага Асветніцтва ўзняты этычныя і эстэт. пытанні. Асобныя палажэнні сугучныя ідэям французскіх матэрыялістаў (К. А. Гельвецыя). Асобна выдаў «Верш на імператара Паўла...» (Вільня, 1799). Як пісьменнік-сентыменталіст сфарміраваўся пад уплывам Ф. Князьніна, Ф. *Карпінскага,* з якім быў у сяброўскіх адносінах, а таксама С. Геснера і Э. Юнга. Аўтар паэтычных зборнікаў «Вясковыя вечары» (ч. 1—2, 1787—88), «Вершы» (1798), паэмы «Вясковыя ночы» (1788), аповесці «Клаўдзіна» (1799), успамінаў «Жыццё Ігнація Быкоўскага...» (1806) і інш. Пераклаў на польскую мову творы А. Сумарокава («Мсціслаў», 1788), Вальтэра, Ж. Мармантэля і інш. Некаторыя арыгінальныя і перакладныя кнігі Б. выдадзены на Беларусі: «Сцежка да шчасця, мала каму вядомая» (Гродна, 1803); «рускі раман» А. Канстана д'Арвіля «Эма і Лемазаў» (Гродна, 1787); К. Фларыян «Батмендзі, персідская аповесць» (Мн., 1790) і інш. Многія творы засталіся ў рукапісах. Некаторыя даследчыкі адзначаюць у мове Б. бел. элементы.

*Літ.:* Дорошевич Э. К. Философия эпохи Просвещения в Белоруссии. Мн., 1971; Mikulski T. Zycie Ignacego Bykowskiego // Mikulski T. Ze studiów nad Oświeceniem. Warszawa, 1956. *А. В. Мальдзіс.*

**БЫЛІНО́ВІЧ** Канстанцін Антонавіч (1893, в. Ластаўшчына Ігуменскага пав., цяпер Уздзенскі р-н — 1939), георгіеўскі кавалер. Скончыў нар. школу ў Ігумені. Працаваў на сельскай гаспадарцы. З 1913 у арміі, радавы. У 1-ю сусв. вайну на фронце. Узнагароджаны медалём «За храбрасць» і Георгіеўскім крыжам 4-й і 3-й ступеней. Двойчы цяжка паранены, вярнуўся з арміі інвалідам.

К. А. Быліновіч.

**«БЫЛО́Е»,** часопіс па гісторыі рэв. руху ў Расіі. Выходзіў у 1900—26 з перапынкамі на рус. мове. У 1900—04 выдаваўся ў Лондане і Парыжы У. Л. Бурцавым. Друкаваў матэрыялы па гісторыі рэв. руху 1860—80-х гадоў. У 1906 перадрукаваны ў Расіі з пропускамі па цэнзурных прычынах. Са студз. 1906 выдаваўся ў Пецярбургу як штомесячны часопіс (меў падзагаловак «Часопіс, прысвечаны гісторыі вызваленчага руху») пад рэдакцыяй В. Я. Багучарскага і П. Я. Шчогалева з удзелам Бурцава. Змяшчаў матэрыялы па гісторыі грамадскага руху з 18 ст. да 1905, у т. л. па гісторыі рэв. руху на Беларусі. Надрукаваў успаміны народніка С. П. Каваліка «Рух 70-х гадоў па Вялікім працэсе (193-х)» (1906. № 10—12), шэраг яго артыкулаў і лістоў у рэдакцыю, успаміны Я. Я. Лазарава пра М. К. Судзілоўскага «Гавайскі сенатар» (1907. № 6), арт. І. А. Гурвіча «Першыя яўрэйскія рабочыя гурткі» (там жа). Змешчаны таксама фотаздымкі І. П. Агрызкі, І. І. Грыняўіцкага, Г. М. Гельфман, Каваліка, Судзілоўскага і інш. У 1907 часопіс закрыты ўладамі, у канцы года замест «Б.» выйшаў гіст. зборнік «Наша краіна». У 1908 выдаваўся часопіс гісторыі і л-ры *«Минувшие годы»,* які часткова замяніў «Б.». У 1908 Бурцаў аднавіў у Парыжы замежнае выданне «Б.», да 1913 выйшлі № 7—15. Асноўная ўвага ў часопісе надавалася выкрыццю правакатараў. У 1917—26 выдаваўся ў Петраградзе, друкаваліся матэрыялы па гісторыі бундаўскіх арг-цый на Беларусі, яўр. незалежнай рабочай партыі ў Мінску, яўрэйскіх пагромах у Беластоку і Гомелі.

*Літ.:* Из истории «Былого» // Былое. 1917. № 1(23); Журналы «Былое» и «Минувшие годы»: Указ. содержания. [Вып.] 1—3. М., 1987. Лурье Ф. М. Хранители прошлого: Журнал «Былое»: история, редакторы, издатели. Л., 1910; Шумейко М. Ф. Материалы архива В. Я. Богучарского по истории журнала «Былое» («Минувшие годы») // Археографический ежегодник за 1978 год. М., 1979. *М. Ф. Шумейка.*

**БЫ́СТРЫЦА,** вёска ў Трокеніцкім сельсавеце Астравецкага р-на, на р. Вілія. За 29 км на Пн ад Астраўца, 34 км ад чыг. ст. Гудагай. 251 ж., 86 двароў (1991). Вядома з 1390, калі вял. князь ВКЛ Ягайла заснаваў тут Крыжаўзвіжанскі касцёл. У канцы 14—пач. 16 ст. ў Б. дзейнічаў кляштар белых аўгусцінцаў. У 1-й пал. 16 ст. Б. цэнтр воласці і рэзідэнцыя віленскага ваяводы. У 1537 мястэчка Віленскага ваяв., з 1566 у Віленскім пав. У 1612 у Б. 56 двароў. У 17—18 ст. цэнтр старостка Бжастоўскіх. З 1795 цэнтр воласці Віленскага пав. Расійскай імперыі. У 1886 250 ж., 50 двароў, нар. вучылішча, прытулак, крама, 2 карчмы. На пач. 20 ст. 405 ж. У час 1-й сусв. вайны з 1915 Б. акупіравана германскімі войскамі. Летам 1920 паблізу дзейнічалі часці 3-га коннага корпуса Г. Дз. Гая. З кастр. 1920 Б. ў складзе *Сярэдняй Літвы,* з 1922—Польшчы. З 1939 у БССР, з 12.10.1940 да 25.12.1962 і з 6.1.1965 Б. цэнтр сельсавета Астравецкага, з 25.12.1962 — Ашмянскага р-наў; з 17.1.1969 вёска ў Астравецкім р-не. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 акупіравана ням.-фаш. войскамі. Вызвалена ў ліп. 1944 у выніку *Вільнюскай аперацыі 1944.* У 1970 295 ж., 91 двор. Няпоўная сярэдняя школа, магазін. У вёсцы магіла камісара дывізіі 3-га коннага корпуса Т. Я. Яўсеева, які загінуў 10.7.1920. Захаваўся помнік архітэктуры 18 ст.— Крыжаўзвіжанскі касцёл. *В. У. Шаблюк.*

**БЫ́ХАВА АБАРО́НА 1659.** Адбывалася ў час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* супраць карнага рус. войска. У пач. 1657 пасля 18-месячнай аблогі рус. войскі сумесна з казакамі І. Нячая штурмам захапілі Быхаў. У 2-й пал. 1658 Нячай здрадзіў рус. цару і перайшоў на бок польскага караля. Сваёй рэзідэнцыяй ён зрабіў добра ўмацаваны г. Стары Быхаў. Дзеянні Нячая не выклікалі энтузіязму ні ў радавога казацтва, ні ў быхаўскіх мяшчан, якія слухалі яго «поневоле» і заявілі, што «впредь помогать ему не будут». Карнае войска рус. ваяводаў Змеева і Лабанава-Растоўскага 14.5.1659 падышло да горада і пачало аблогу, якая працягвалася да 4 снеж. і закончылася начным штурмам Быхава. Поспеху штурму ў значнай ступені садзейнічала здрада членаў гар. магістрата Ілыніча і Ранкоўскіх, а таксама каменданта *Быхаўскага замка* немца Шульца, які адчыніў браму. «Впавши» ў Быхаўскую фартэцыю, рус. войска «людей всех, в той осаде бывших, высекло»; асабліва пацярпела палонная шляхта, якую знішчылі «в пень». У данясенні цару Лабанаў-Растоўскі паведамляў, што «государевы ратные люди город Старый Быхов приступом взяли и изменников Ивашку Нечая и брата его Самошку Выговского и иных многих в ночное время побили». Ад аблогі і штурму замак моцна пацярпеў. У час успыхнуўшага пажару «...в каменном городке... с порохом взорвало палату, а в той ...палате были порох ручной и пушечный и пушечные ядра, ...свинцу 12 свиней да пушечных ядер больших и малых 1843 ядра да 700 пуль мушкетных, да в том же погребу быховских мещан в кадех меду сырцу сто пуд да сукна и иную

рухлядь». У замку паднавілі пашкоджаныя ўмацаванні і там размясціўся рус. гарнізон

*Літ* Абецедарский Л С Белоруссия и Россия Очерки русско-белорусских связей второй половины XVI — XVII в Мн, 1978 С 180, 191, Полное собрание русских летописей М, 1980 Т 35 С 242, Историко-юридические материалы, извлечённые из актовых книг губерний Витебской и Могилевской Витебск, 1888 Вып 17 С 214 *М А Ткачоў*

**БЫ́ХАВА АБАРО́НА 1707.** Адбывалася ў час *Паўночнай вайны 1700—21* супраць рус. войск. Пасля ўзяцця Старога Быхава казакамі і войскамі ВКЛ у кастр. 1702 (гл. *Быхава аблога 1702)* ген. артылерыі ВКЛ К Сініцкі-Бонч (паводле іншых крыніц Сяніцкі) практычна стаў адзіным правіцелем Быхаўшчыны і прыбраў да сваіх рук прыбыткі *Магілеўскай эканоміі* Разам са сваімі прыхільнікамі збіраўся здрадзіць каралю Аўгусту II і рыхтаваў выступленне супраць рус. войск. Спачатку ён загадаў узмацніць бастыённыя ўмацаванні горада, што было зроблена «крывавай людской працай» Пасля прыбыцця ў Быхаў войск пад камандаваннем яго брата — падстолія ВКЛ, палкоўнікаў Ліндорфа і Берлінкурта Сініцкі падняў мяцеж. Была абрабавана рус. армейская казна, якая дастаўляла салдацкія грошы да месца дыслакацыі палкоў Сініцкія накіравалі паведамленне пра свой мяцеж прыхільнікам Сапегаў і шведскаму каралю Карлу XII з заклікам прыйсці на Бел. Падняпроўе, абяцаючы ім усялякую падтрымку. У адказ Петр I тэрмінова накіраваў некалькі дзесяткаў рус палкоў пад камандаваннем генералаў Баўра, Чамберса, Фонвердэна і Валконскага. Быхаў на той час уяўляў першакласна ўмацаваную цытадэль з вял. колькасцю гармат, пешага і коннага войска. Насельніцтва адмоўна ставілася да мяцежнікаў, аднак пад пагрозай смерці было вымушана заняць баявыя пазіцыі па лініі абароны горада. Безупынная бамбардзіроўка Быхава і асабліва замка вялася кругласутачна некалькі дзён запар. Вялікія разбурэнні і пажары, адсутнасць дапамогі ад Сапегаў і караля Карла XII вымусілі Сініцкіх пайсці на перагаворы аб капітуляцыі. Было падпісана пагадненне з 13 пунктаў пра ўмовы здачы Быхава рус. войскам. Паводле пагаднення, у замку павінны быць 2 каменданты і змешаны гарнізон з войск Расіі і ВКЛ, жыхары горада і валасці захоўвалі свае правы і прывілеі, старшыя афіцэры з мяцежнага войска прысягалі ніколі не ваяваць супраць «найсветлейшего царя», Сініцкія маглі свабодна пакінуць Быхаў, уся артылерыя горада і замка павінна была застацца на валах. Але рус. генералы, што падпісвалі пагадненне, ужо мелі на руках царскі загад пра арышт Сініцкіх і высылцы іх у Сібір. Пасля здачы горада і замка закаваных у кайданы братоў Сініцкіх вывезлі ў ссылку Пасля гэтага і «ўсю армату быхаўскую, якой было некалькі дзесяткаў штук, а таксама армату замкавую замка Магілеўскага 15 штук... Масква, склаўшы ў байдары, адправіла ўніз Дняпром да Кіева». Мяркуючы па інвентары «арматы цэйхгауза» за 1707, у Быхаве было 30 сваіх гармат калібрам ад 1 да 100 фунтаў, каля 50 бочак «пораху» крычаўскага, пяхотныя і артыл. гранаты, шмат ваен. рыштунку. Пасля Б а. рускі гарнізон у некалькі тысяч салдат стаяў у Быхаве больш як 7 гадоў, потым разбурыў гар. брамы, узарваў умацаванні і пакінуў горад

*Літ* Полное собрание русских летописей М, 1980 Т 35 С 199, 252, 259, 268, Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси Вильна, 1867 Т 2 С VIII, XI *М А Ткачоў*

**БЫ́ХАВА АБЛО́ГА 1654—55.** Праводзілася рус. войскам і ўкр казакамі ў час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* Пачалася ў жн. 1654 і працягвалася 11 месяцаў. Быхаў перашкаджаў казацкаму войску развіваць наступленне на Падняпроўі, «за пазухою аки змею маючи». Горад быў добра ўмацаваны, меў вял. гарнізон, пагалоўна ўзброенае мужчынскае насельніцтва. «А в том Быхове,— пісаў рус. цару наказны атаман палк І. Н Залатарэнка 29 жн.,— шляхты немало и волощане, до того места належачие, заперлися и Вашему Царскому Величеству поклонитеся не хотят». Яны праяўлялі, па словах атамана, «гордыню и непокорение дьявольское» Жыхары Быхава не рэагавалі на «прелестные грамоты» атамана, якія дасылаліся ў горад ад імя цара. Паводле дакументаў, адной з прычын упартага супраціўлення гараджан быў страх перад Залатарэнкам (большасць мяшчан яму не верыла). Другой прычынай з'яўляліся звесткі пра трагічны лес жыхароў суседніх гарадоў. «а именно Шклов, Копысь и иные города, и тех городов всяких жилетцких людей неволят, грабят и в полон емлют и до Москвы отвозят, н те де все городы ныне разорены и опустошены и быховцы де, слыша то, все на том и порешили, лутше де им в домех своих хотя помереть, нежели в неволю из воли самим себя отдавать» Залатарэнка прасіў цара «об огненной пушке и об огненных ядрах, чтобы есмя могли тех разорителей веры нашей православныя христианския с городом их зажечь, понеже город деревянный и зело домы большие и частые». У сярэдзіне снеж. 1654 пасля 10-тыднёвай аблогі Стары Быхаў дэблакіравала войска гетмана ВКЛ Я. Радзівіла і В. Гансеўскага і заняло яго, адцясніўшы казакоў да Новага Быхава. Толькі ў маі 1655 войска Залатарэнкі зноў прыступіла да аблогі горада. У грамаце да насельніцтва ад 7 мая наказны атаман пісаў «По сотиокротным упоминаньем упаминаю жебысте се поклонили Его Царскому Величеству, а над собою, женами и детми своими змиловалися. Бо ведайте о том певне, коли вас достанем през меч, а малого дитяти живити не будем. А в том на мудрый наш розсудок полецаем о респоне пильно вашу милость жадаем». Праз 10 дзён была паслана яшчэ адна грамата, на якую «Старого Быхова всяких чинов люди наказному гетману отказали. сдаваться де мы не хотим, а будем де сидеть, покаместа нашей мочи будет». Раздражнены няўдалай аблогай горада Б. Хмяльніцкі загадаў Залатарэнку выкапаць перад гар брамамі роў, каб перашкодзіць вылазкам гарнізона, паставіць заслон з пяхоты і «оставить курятник» у спакоі. Казакі былі пераведзены ў цэнтр Беларусі, а іх месца заняла армія кн. А. Н. Трубяцкога (11 палкоў на чале з наёмнымі палкоўнікамі Е. Цыклерам, Х. Юнкманам, Г. Фанстаданам, Л. Марцятусам, Я Ронартам, А Гохгардам, К Крафертам, Е Франзбекам, А. Гамонтам, а таксама Т. Кундліным і Л. Р. Азар'евым). У чэрв. 1655 да быхаўскіх мяшчан з граматамі аб здачы горада звярнуўся сам цар. Ён абяцаў «всей врожоной шляхте и всему рыцерству, также всем бурмистрам, радцам и лавникам и всем всякого чину градским и уездным людям» не чыніць разарэння, выдаць усім жыхарам жалаванне, захаваць за шляхтай правы, маенткі і розныя льготы. Адначасова было паабяцана тым, хто будзе працівіцца здачы, «тех всех предадим мечу». Ваенныя дзеянні рус. арміі кн. Трубяцкога працягваліся да 26 ліп. Князь некалькі разоў заклікаў быхаўцаў здацца, але тыя адхілялі прапановы. У данясенні цару ён пісаў «И быховцы твоей милостивой грамоты не приняли, и тебе, великому государю, не добили челом, и город не сдали, и из городу на солдатские шанцы вылазки у них были не по один день и ночьми, и с твоими государевыми людьми пеших полков с солдаты, и с стрельцы, они, быховцы, бились; и твои, государевы ратные люди, быховцев побивали, и от шанцев в ров отбивали» Прычыну такога ўпартага супраціўлення царскія ваяводы бачылі ў магутнасці «каменного городка» — Быхаўскага замка,— а таксама ў тым, што «хлебных и железных запасов в городе много». Сваю ролю адыграла і грамата караля Рэчы Паспалітай Яна Казіміра ад 31.5.1655, паводле якой за мужнасць жыхары Быхава як уладанне падканцлера ВКЛ К Л Сапегі на 20 гадоў вызваляліся ад усіх падаткаў, за кошт каралеўскай казны дадаткова наймалася 300 чал. нямецкай пяхоты для далейшай абароны горада. У пач. жніўня частка рус. войск з-пад Старога Быхава была перакінута да Слуцка і на Паниямонне, аднак у пач. кастрычніка сюды вярнуліся казакі пад камандаваннем Залатарэнкі 7 кастр. аблога горада аднавілася. 8 кастр. «быховские сидельцы» зрабілі вылазку, у выніку якой загінуў Залатарэнка У гэты час выбухнула паўстанне супраць казацкай старшыны. Запарожскае войска страціла баяздольнасць і «не могучи... болше держати Быхова в облеженю и оный узяти не могучи, отступили назад на Украину». У канцы 1655 рус войскі былі вымушаны паступова знімаць аблогу горада. Тут застаўся толькі 1 полк з 22 сотняў на чале з палк. І. Нячаем, які складаўся пераважна з «пописавшихся» ў казакі сялян Усх Беларусі. У Быхаве, які моцна

цярпеў ад абстрэлаў, асабліва ад «огненного наряду», прысланага царом, бушавалі частыя пажары, змяншаліся запасы хлеба, хоць рус. палонныя салдаты-ўцекачы паведамлялі, што з хлебам тут «нескудно». Найбольш цярпелі бедныя людзі, якія, паводле звестак тых жа салдат, «от того скучают, что де животины у них в городе много» (дрэнна было з кармамі). Гарнізон Быхава меў 1000 чал. наёмнай пяхоты, што абаранялі замак, на валах горада было 18 харугваў мяшчан, шмат узбр. сялян з Быхаўскага пав. і асобнае фарміраванне з 1000 яўрэяў. У пач. 1656 Б.а. была фактычна спынена ў сувязі з Віленскім перамір'ем 1656, якое забараняла рус. войскам і казакам чыніць «зацепки и наезды» незаваяваным населеным пунктам, асабліва Быхаву. Рус. цар чакаў вырашэння пытання пра абранне яго на трон Рэчы Паспалітай.

*Літ.:* Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России. Спб., 1889. Т. 14. С. 441—445, 466—468, 471—474, 678, 682, 690—700; Белоруссия в эпоху феодализма: Сб. документов и материалов. Мн., 1960. Т. 2. С. 80, 100—103; Акты Московского государства. Спб., 1894. Т. 2. С. 384—385, 409, 425, 442, 461, 463—467; Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси. Вильна, 1867. Т. 1. С. 391; Летопись самовидца... Киев, 1878. С. 41; Мальцев А. Н. Россия и Белоруссия в середине XVII в. М., 1974. С. 78—79, 83, 98—99; Абецедарский Л. С. Белоруссия и Россия: Очерки русско-белорусских связей второй половины XVI—XVII в. Мн., 1978. С. 175. *М. А. Ткачоў.*

**БЫ́ХАВА АБЛО́ГА 1660—61.** Праводзілася казакамі і войскамі Рэчы Паспалітай у час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67.* У снеж. 1659 Быхаў занялі рус. войскі (гл. *Быхава абарона 1659*). Ваявода Фёдар Абярнібесаў 26.10.1660 паведамляў цару пра цяжкае становішча рус. войска, якое безупынна асаджалі казакі палк. Дзяніса Мурашкі і гетмана Чарнецкага, што стаялі лагерам у Баркулабаўскім манастыры. Паводле інфармацыі палк. Гохварта, якая адносіцца да канца 1661, яго салдаты «голод и нужды всякие терпели, и траву, и лебеду, и мокрицу, и лошадиное мясо, и сырые говяжьи кожи, варя, ели». У асаджаных было 18 палкавых гармат і 2 пішчалі-бамбарды. 1.12.1661 да Быхава падышло войска Рэчы Паспалітай у складзе 7 тыс. конных і пешых салдат з 11 гарматамі пад камандаваннем Чарнецкага. Рус. гарнізон Быхава інтэнсіўнай аблогі не вытрымаў і праз некалькі дзён горад здаў.

*Літ.:* Акты Московского государства. Спб., 1901. Т. 3. С. 105, 196, 403, 471.
*М. А. Ткачоў.*

**БЫ́ХАВА АБЛО́ГА 1702.** Праводзілася казакамі і войскамі ВКЛ у час *Паўночнай вайны 1700—21.* Уладальнік Быхава К. Сапега ў час Паўн. вайны падтрымліваў шведскага караля Карла XII, а ў перыяд двоеўладдзя — С. Ляшчынскага, шведскага стаўленіка, які ў 1704 Варшаўскай канфедэрацыяй шляхты быў выбраны польскім каралём. Былы польскі кароль і курфюрст Саксоніі Аўгуст II разам са сваім саюзнікам рус. імператарам Пятром I пачаў ваен. дзеянні супраць Ляшчынскага і яго прыхільнікаў. 29.8.1702 пачалася аблога Быхава. Да яго падышлі 3 казацкія палкі (Нежынскі, Стародубскі і Прылуцкі) пад камандаваннем наказнога гетмана запарожскага войска палк. Міхаіла Міклашэўскага. 31 жн. з боку Магілёва прыбыло войска харужага наваградскага і адміністратара Магілёўскай эканоміі ген. артылерыі ВКЛ Крыштофа Сініцкага-Бонча (паводле інш. крыніц Сяніцкага) у складзе бел. дывізіі, конніцы бел.-літоўскіх татар і батарэі артылерыі, у т. л. 15 вял. гармат з Магілёва. Пазней падышлі Лубенскі і Гадзяцкі казацкія палкі. Гарнізон асаджанага Старога Быхава склаўся з гар., валаснога і шляхецкага апалчэнняў, Валоскай драгунскай і Запарожскай казацкай палк. Сердзюка конных харугваў, наёмнай запарожскай, венгерскай і ням. пяхоты. У горадзе і *Быхаўскім замку* было 30 гармат. Кіравалі войскам пярнаўскі падкаморы Мікалай Більдзюкевіч і тагачасны быхаўскі губернатар оберст-лейт. Якуб Дэро. Войскі Сініцкага абкружылі горад шанцамі, з дапамогай апрошаў (вузкіх, глыбокіх, зігзагападобных равоў для бяспечнага набліжэння да праціўніка) пачалі падступацца да бастыённых умацаванняў Быхава: капаліся падземныя хады для закладкі мін пад гар. валы, бесперапынна вялася артыл. стральба. Асабліва вял. разбурэнні і пажары рабіла велізарная магілёўская гармата — «галандка», якая скарыстоўвала 52-фунтовыя бомбы (на адзін зарад ішло 45 кг пораху). Абаронцы горада білі ў адказ карцеччу, рабілі ўдалыя вылазкі, нават захоплівалі казацкія гарматы. Але 10 кастр. гарнізон Быхава мусіў здацца на ганаровых умовах і прысягнуў каралю Аўгусту II. Горад і замак разам з гарматамі і ўсёй амуніцыяй пераходзілі да Сініцкага, частка гарнізона і наёмнікі пераводзіліся ў Магілёў, запарожцы амніс́ціраваліся, мяшчанам пакідаліся ўсе вольнасці і прывілеі. У склад гарнізона замка ўводзілася 400 гвардзейцаў караля Аўгуста II.

*Літ.:* Полное собрание русских летописей. М., 1980. Т. 35. С. 199, 252; Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси. Вильна, 1867. Т. 2. С. VIII—IX. *М. А. Ткачоў.*

Герб Быхава. 1781.




**БЫ́ХАЎ,** горад, цэнтр Быхаўскага р-на, прыстань на Дняпры. За 44 км на Пд ад Магілёва. Чыг. ст. на лініі Магілёў — Жлобін. 20 тыс. ж. (1989).

Упершыню згадваецца ў «Спісе рускіх гарадоў далёкіх і блізкіх» (14 ст.), у 1430 сярод гарадоў, што падтрымалі абранне Свідрыгайлы вял. князем. Склаўся на месцы ўмацаванага гарадзішча. У 2-й чвэрці 15 ст. належаў кн. Дзмітрыю Сямёнавічу Друцкаму-Зубравіцкаму па празванні Сякіра. Яго дачка Марына пабралася шлюбам з кн. Сямёнам Сямёнавічам Гальшанскім-Трабскім і валодала Б. сумесна з мужам, а затым як удава. Памерла каля 1495, завяшчала Б. свайму ўнуку Альбрэхту Гаштольду. Найбуйнейшыя магнаты свайго часу А. Гаштольд і яго адзіны сын Станіслаў валодалі Б. да смерці Станіслава ў 1542, потым усе маёнткі Гаштольдаў адышлі да вял. кн. Жыгімонта I Старога. Б. быўператвораны ў цэнтр дзярж. староства, здадзенага ў заклад князю Івану Саламярэцкаму, які ў 1556 перазаклаў Б. Ераніму Аляксандравічу Хадкевічу. Апошні ў 1560 атрымаў прывілей на валоданне Б. у якасці лена, пазней — у якасці вотчыны. У 1561 Б. перайшоў да Яна Ераніма Хадкевіча, «графа на Шклове, Быхаве, Глуску і Мышы». У 16 ст.

ўзнікла *Быхаўская людвісарня,* у канцы стагоддзя распачата будаўніцтва *быхаўскіх гарадскіх умацаванняў* і *Быхаўскага замка* Ян Кароль Хадкевіч (апошні ўладальнік Б. з роду Хадкевічаў) заснаваў у Б. касцел Святога Казіміра. Пасля шлюбу яго дачкі Ганны з сынам канцлера Льва Сапегі Янам Станіславам у 1621 Б. перайшоў да Сапегаў. Горадам валодалі Сапегі Казімір Леў (з 1635), Павел Ян (1656—65), Казімір Ян (да 1720), Юры Станіслаў (да 1732), Антоні Казімір (да 1739). У 1-й пал. 17 ст. ў адрозненне ад новазаснаванага мяст. Новы Быхаў Б пачынаюць называць Старым Быхавам. Быў цэнтрам вялізнага Быхаўскага графства ў Аршанскім пав. У 1648 горад асаджала, але не здолела ўзяць казацкае войска Ф. Гаркушы. У час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 адбыліся *Быхава аблога 1654—55, Быхава абарона 1659, Быхава аблога 1660—61.* У Паўн. вайну 1700—21 Б.— важны стратэгічны пункт, адбыліся *Быхава аблога 1702* і *Быхава абарона 1707.* 23.6.1706 па шляху ў Кіеў на дняпроўскай прыстані горада спыняўся Петр І. У 1747 у Б. 247 двароў; бібліятэка, паташня, саладоўня, лазня, астрог. Насельніцтва групавалася ў мяшчанскай і яўрэйскай абшчынах. За карыстанне зямлей яны плацілі ўладальніку горада грашовы чынш і выконвалі павіннасці ў замку. У 1755 у Б. 2522 ж., сярод рамеснікаў былі шаўцы, гарбары, краўцы, сталяры, цесляры, кавалі. 534 двары, малітоўная школа, 9 гандл. радоў, праводзіліся 3 кірмашы на год. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) Б. у складзе Расійскай імперыі, цэнтр Старабыхаўскага пав. Магілеўскай губ. У 1781 зацверджаны герб Б.: на чырвоным полі 2 скрыжаваныя чыгунныя гарматы. У 1796—1806 заштатны горад Беларускай губ., з 1802 цэнтр Старабыхаўскага, з 1852 Быхаўскага пав. Магілеўскай губ. У 1783 у Б. 2622 ж., 534 дамы, працавала школа (павятовае вучылішча). Паводле плана горада, распрацаванага ў 1778, стараж. ўмацаваная частка з замкам і гандл. плошчай захавана як цэнтр планіровачнае ядро, вакол якога ствараліся новыя кварталы. Былі пракладзены драўляныя тратуары, зроблена вулічнае асвятленне, адноўлены гар. гадзіннік. У Айч. вайну 1812 7-ы корпус ген.-лейт. М. М. Раеўскага 11—12 ліп. на поўнач ад Б. стрымліваў французаў, чым даў магчымасць 2-й Зах. арміі П. І. Баграцёна пераправіцца цераз Дняпро. У 1831 Б. канфіскаваны ў Сапегаў за ўдзел у паўстанні 1830—31 і стаў дзярж уласнасцю. 5 гадоў працягваліся *Быхаўскія выступленні сялян 1829—34* за вызваленне ад прыгоннай залежнасці. У 1841 у Б. 5475 ж., 652 дамы, 19 вуліц і завулкаў; працавалі рамесныя майстэрні краўцоў, шаўцоў, кавалеў, майстроў па рамонце гадзіннікаў, слесараў, алавяншчыкаў і ювеліраў. У час паўстання 1863—64 на тэр. павета ў крас.— маі 1863 дзейнічаў Быхаўскі паўстанцкі атрад на чале з І *Анцыпам* У пач. 1880-х гадоў працавалі 2 прадпрыемствы па вырабе запалак і цэглы, крупадзерка, 4 ветракі, 2-класнае павятовае і прыходскае (з жаночай зменай) вучылішчы, у якіх працавала 8 настаўнікаў, 3 царквы, касцел, сінагога, 10 малітоўных школ, з 1882 дзейнічала тэлеграфная станцыя. У 1897 у Б. каля 6,4 тыс. ж. (36,2 % пісьменных), 816 дамоў. З 1902 Б.— чыг. станцыя. У маі — чэрв. 1900 пад кіраўніцтвам студэнта Харкаўскага ун-та У. Я. Бабкова ў Б. створана с.-д. арганізацыя, пад уплывам якой у жн.—вер. 1900 адбылся першыя ў горадзе эканам. забастоўкі. У ліст. 1902 і летам 1903 прайшлі стачкі рабочых, у пач. 1903 — першая дэманстрацыя, у снеж. 1903 — масоўка, прысвечаная памяці дзекабрыстаў. Восенню 1904 на прызыўным пункце ў Б. адбылося хваляванне прызыўнікоў, якое суправаджалася сутычкамі з паліцыяй і казакамі У час рэвалюцыі 1905—07 у горадзе адбываліся забастоўкі і дэманстрацыі, 8.3.1905 рабочыя явачным парадкам увялі 8-гадзінны рабочы дзень. У 1911 у Б. 39 прамысл. прадпрыемстваў, на якіх працавала 69 рабочых, 6 навуч. устаноў, у т л. 3-класнае гарадское вучылішча, ніжэйшае рамеснае вучылішча, прыходскія мужчынскае і жаночае вучылішчы, 2 царк.-прыходскія школы. У 1913 у Б. 8,1 тыс. ж., адкрыты 1-ы кінатэатр У 1916 закончана будаўніцтва моста цераз Дняпро. Пасля Лют. рэв. 1917 салдаты Быхаўскага гарнізона разграмілі гар турму, вызвалілі палітзняволеных і арганізавалі дэманстрацыю; быў выбраны камітэт рабочых і салдацкіх дэпутатаў, паводле пастановы якога ў сак. 1917 амаль усе камандзіры часцей гарнізона былі арыштаваны. Пасля ліпеньскага крызісу 1917 Быхаўскі Савет разагнаны, рэвалюцыйна настроеныя вайск. часці адпраўлены на фронт У час карнілаўскага мяцяжу ў Б. дзейнічаў надзвычайны орган па арганізацыі адпору мяцежнікам. З дапамогай рэв. салдат і рабочых-чыгуначнікаў ен сарваў спробы контррэвалюцыі выкарыстаць чыг. станцыю для адпраўкі войск на Петраград і Маскву. Тут былі зняволены царскія генералы, т. зв. «быхаўскія вязні» — Л. Г. Карнілаў, А. І. Дзянікін, А. С. Лукомскі, І. П. Раманоўскі і інш., якія ўдзельнічалі ў мяцяжы У жн. 1917 у горад уступіла 1-я дывізія польскага корпуса Доўбар-Мусніцкага. Пасля Кастр. рэвалюцыі 24.11.1917 у горад прыбыў атрад чырвонагвардзейцаў пад камандаваннем члена ВРК пры Стаўцы вярхоўнага галоўнакамандуючага С. І. Марозава, які стварыў рэўком і стаў яго старшыней. У снеж 1917 адбыўся пав. з'езд Саветаў Супраць легіянераў Доўбар-Мусніцкага [мяцеж узняты 12(25) 1 1918] змагаліся 3 чырвонагвардзейскія атрады з Б. 5.3.1918 горад захоплены часцямі Доўбар-Мусніцкага і войскамі кайзераўскай Германіі. У тыле ворага дзейнічалі Быхаўскі падп. падраенны к-т РКП(б) на чале з Ц. І. Сарокіным, 1-ы Быхаўскі партыз. атрад (камандзір С К. Дзергачоў). 16.11.1918 Б. вызвалены 152-м і 153-м стралк. палкамі 17-й стралк. дывізіі. 18.12.1918 адбылася 1-я Быхаўская пав канферэнцыя РКП(б). 25.12.1918 пачала выдавацца газ. «Известия Быховского ревкома». 10.1.1919 1-ы пав. з'езд Саветаў вітаў утварэнне БССР. У лют 1919 горад у складзе Магілеўскай губ адышоў да РСФСР З крас. 1919 Б.— цэнтр павета Гомельскай губ. З 1924 Б у БССР, цэнтр раена (да 1930 Магілеўскай акругі, з 1938 Магілеўскай вобл.). У 1926 у горадзе 7657 ж., 1120 гаспадарак; у 1939 было 11 тыс. ж У Вял. Айч. вайну 5.7.1941 Б. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія разбурылі горад, загубілі 9158 чал. (у горадзе і раене). На тэр. раена дзейнічалі падп. райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ, партыз. брыгада 11-я Быхаўская, пераўтвораная ў 1943 у Быхаўскую ваеннааператыўную групу. Вызвалены 28.6 1944 воінамі 362-й стралк. дывізіі 19-га стралк. корпуса 50-й арміі 2-га Бел. фронту. У 1959 у Б. 13 тыс ж, у 1970 17,4 тыс. жыхароў. Заводы кансервавагароднінасушыльны, сухога абястлушчанага малака, хлебазавод, ільнозавод, з-д металавырабаў, мэблевая ф-ка. 3 сярэднія, музычная школы, 3 бібліятэкі. Выдаецца раенная газ. «Маяк Прыдняпроўя». Працуе *Быхаўскі гісторыка-краязнаўчы музей.* Помнікі партыз. разведчыку піянеру М. Казлову; брацкая магіла барацьбітоў за сав. ўладу, сав. воінаў і партызан, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. Захаваліся помнікі архітэктуры: замак, сінагога (пач. 17 ст), Троіцкая царква.

Выгляд **Быхава** з боку Дняпра Пачатак 20 ст

*Літ.* Памяць Гіст -дакум хроніка Быхаў-

скага р-на Мн, 1990, Хоботов Н П Быхов Ист-экон очерк Мн, 1989
*В Л Насевіч В М Удальцоў*

**БЫ́ХАЎСКАЯ ЛЮДВІСА́РНЯ**, гарматная ліцейная майстэрня ў Быхаве ў 2-й пал 16—18 ст. Узнікла, калі Быхавам валодалі магнаты *Хадкевічы* Адным з першых людвісараў быў, відаць, немец Кашпір Ганусаў, які адліў у 1555 «вогненную гармату» (у час *Лівонскай вайны 1558—83* рус войска вывезла яе ў Маскву) Тут выраблялі дробавыя гарматы — «шротаўніцы», гарматы калібрам ад 1 да 100 фунтаў, разнастайныя марціры — «мардзеры», шматствольныя ўстаноўкі — *«арганы»* і «шмыгаўніцы» Б л рабіла таксама ядры, карцечныя зарады, артыл і ручныя гранаты, у т л. металічныя, драўляныя і шкляныя У 1697 быхаўскія людвісары майстар немец Пятрок і яго памочнік Юрка былі запрошаны ў Магілеў, дзе адлівалі магістрату вял бронзавую гармату Аплата была стабільная — па 4 злотыя за 1 пуд У сярэдзіне 18 ст Б л. адлівала і перараблялa старыя гарматы Яшчэ ў 1912 у *Быхаўскім замку* і каля яго знаходзілася 10 старадаўніх гармат мясц адліўкі

*Літ* Рубцов Н Н История литейного производства в СССР 2 изд М, 1962 Ч 1 С 224 *М А Ткачоў*

**БЫ́ХАЎСКАЯ САЦЫЯ́Л-ДЭМАКРАТЫ́ЧНАЯ АРГАНІЗА́ЦЫЯ 1900.** Створана ў маі — чэрв 1900 па ініцыятыве *У Я Бабкова* Яе актыўнымі членамі былі сацыял-дэмакраты М Машарскі, І Баталін, М Батхан, што жылі ў Быхаве пад наглядам паліцыі, а таксама фельчары А Воўк-Ланеўскі, М Мішчанка, слесар Л Горкін, краўчыха С Горкіна і інш Мела падп бібліятэку, у якой былі выданні *Пецярбургскага «Саюза барацьбы за вызваленне рабочага класа»*, с-д арг-цыі «Паўдневы рабочы», «Саюза рускіх сацыял-дэмакратаў за мяжой», ЦК, а таксама Гомельскага і Віленскага с-д к-таў Бунда, ЦК прафсаюза шчаціннікаў, беластоцкай «Групы рабочых рэвалюцыянераў» і інш Літаратуру арг-цыя атрымлівала пераважна з Магілёва ад Х Усышкіна, высланага з Віцебска за ўдзел у с-д руху Пад уплывам агітацыі Батхана і Машарскага ў жн 1900 баставалі рабочыя шавецкага цэха (дамагліся павышэння платы), сталярнай і шапачнай майстэрняў 10 9 1900 Бабкоў выехаў у Харкаў, дзе арыштаваны Арганізацыя разгромлена паліцыяй у студз 1901 *М В Біч*

**БЫХАЎСКІ ГІСТО́РЫКА - КРАЯЗНА́ЎЧЫ МУЗЕ́Й.** Заснаваны ў Быхаве у 1979 на базе матэрыялаў музея раённай газ «Маяк Прыдняпроўя», які быў створаны яе супрацоўнікамі і працаваў на грамадскіх пачатках Адкрыты для наведвальнікаў 29.6 1984. Размяшчаецца на тэр. *Быхаўскага замка* Мае 8 экспазіцыйных залаў (пл. экспазіцыі 288 м$^2$), каля 2,5 тыс экспанатаў (1992) Аддзелы археалогіі, гісторыі дасав і сав. перыядаў Быхаўшчыны, прыроды Экспануюцца палеанталагічныя і археал знаходкі, у т л зуб і фрагменты біўняў маманта, каменныя прылады працы, стараж керамiка, матэрыялы, прысвечаныя гісторыі Быхаўскага замка, падзеям перыяду Паўночнай вайны 1700—21, Айч вайны 1812, грамадз вайны, калектывізацыі на Быхаўшчыне Шмат экспанатаў прысвечана ўдзелу ўраджэнцаў Быхаўшчыны ў Вял Айч вайне, абароне Быхава 1941, партыз руху і дзейнасці падпольшчыкаў У зале Перамогі ўстаноўлена 14 бюстаў Герояў Сав Саюза, што нарадзіліся ў Быхаўскім р-не Асобны стэнд прысвечаны Герою Сав Саюза, маршалу авіяцыі С А *Красоўскаму* (нарадзіўся ў в Глухі на Быхаўшчыне) Экспануюцца фатаграфіі 11 Герояў Сав Саюза, якім прысвоена гэта званне за подзвігі, здзейсненыя на тэр. Быхаўскага р-на, матэрыялы пра легендарную Лудчыцкую вышыню Асобныя стэнды расказваюць пра лепшыя прадпрыемствы і гаспадаркі раена, развіцце медыцыны, нар асветы, культуры і спорту, сувязі Быхаўшчыны з Балгарыяй *Л М Усава*

**БЫХАЎСКІ ЗА́МАК.** Існаваў у 16—18 ст у *Быхаве* Стаяў на высокім правым беразе Дняпра, на месцы больш ранняга пасялення 14—15 ст Уваходзіў у сістэму *Быхаўскіх гарадскіх умацаванняў* Да 1590 Б з меў драўляназемляныя ўмацаванні — кальцавы вал, драўляныя сцены ў выглядзе гародняў, вежы і ўязную браму У 1590 замак вытрымаў напад атрада «нізавых казакоў» данскога гетмана Мацюшы Федаровіча, якія, «наехавши гвалтовне., шкоды немалые. починили» У варотах брамы і ў драўляных сценах засталіся «есьмо куль и стрел немало» Тады ж гаспадар горада гетман ВКЛ Я Н Хадкевіч атрымаў ад караля грамату на ўзвядзенне новага замка Будаўніцтва яго закончылася ў 1619. Пры Л Сапегу, да якога ў 1628 перайшоў Быхаў, узведзена бастыенная фартыфікацыя Новы Б з займаў участак берага ў выглядзе няправільнага прамавугольніка памерам 77×100 м, з Пд, З і Пн быў умацаваны глыбокімі і шырокімі (да 22—27 м) равамі, а па краях пляцоўкі — земляным валам з бастыенамі Па перыметры дзядзінца размяшчаліся жылыя і гасп пабудовы, у т л комплекс мураванага палаца-замкавага ансамбля «Прыступны» зах бок абароны замка з уязной брамай быў дадаткова ўмацаваны васьміграннымі 2-яруснымі цаглянымі вежамі, якія мелі па 7—8 байніц і фланкіравалі подступы да брамы Брама была таксама мураваная, 2-ярусная са скляпеністым перакрыццем, з купалам — «галкай» і ветранікам з гербам Сапегаў Двухстворкавыя палотнішчы варот былі дадаткова ўмацаваны кратай — герсай і спец сістэмай жал запораў Да брамы вёў драўляны мост, пасярэдзіне якога стаялі дадатковыя «краты з дрэва сталярскай работы» На восі ўезду ў замак знаходзіўся палац, на ніжнім паверсе якога размяшчаліся розныя службы, на верхнім — пакоі і сталовая зала, пад палацам — скляпеністыя падвалы Справа ад брамы была казарма, на замкавым двары — студня У Б з пастаянна знаходзіўся значны вайсковы гарнізон, які падначальваўся мясц адміністратару — «губернатару», а таксама вял колькасць агнястрэльнай зброі і амуніцыі На патрэбу абароны працавала спец *Быхаўская людвісарня*, дзе высокакваліфікаваныя майстры выраблялі гарматы, ядры, кулі і гранаты Зброя і металічныя даспехі, выробленыя быхаўскімі замкавымі збройнікамі, карысталіся вял попытам на Беларусі і за яе межамі Паводле звестак 1692, у цэйхгаузе Б з было 34 гарматы (шротаўніцы, палявыя марціры, шматствольныя *«арганы»* — 5 з іх выраблены ў замкавай людвісарні), 32 «свінні» волава, салетра, ядры, картузныя зарады для 3-, 4-, 6-, і 10-фунтавых гармат, артыл і ручныя гранаты (апошнія 3 тыпаў жалезныя, драўляныя і шкляныя) Сярод інш зброі — 1200 мушкетаў, 8 арганаў, 38 гакаўніц, старасвецкі аркебуз, 50 пар «блях гусарскіх», косы «проста насаджаныя», формы для адліўкі ядзер, жал пікі, а таксама харугвы (баявыя сцягі) Замак пераажыў шмат аблог і штурмаў У 1648 атрад укр казакоў на чале з Ф Гаркушам не здолеў яго ўзяць Са жн 1654 на працягу 11 месяцаў яго беспасяхова асаджалі казацкія атрады І Н Залатарэнкі і 11 палкоў рус войска на чале з ваяводам А М Трубяцкім (гл *Быхава аблога 1654—55)* Толькі ў пач 1657 пасля 18-месячнай аблогі рус войскі разам з казакамі І Нячая штурмам узялі замак Пасля пераходу Нячая на бок караля Рэчы Паспалітай з 14 5 1659 Б з асаджалі групоўкі карных атрадаў ваявод Лабанава-Растоўскага і Змеева (гл *Быхава абарона 1659)* Рус гарнізон, які захапіў замак, у 1660 сам апынуўся ў аблозе і ў снеж 1661 здаўся 7-тысячнаму войску Рэчы Паспалітай на чале з гетманам Чарнецкім (гл *Быхава аблога 1660—61)* У час *Паўночнай вайны 1700—21* уладальнік Быхава К Сапега перайшоў на бок шведаў, і быхаўскі гарнізон рабіў напады на войскі Пятра І і караля Аўгуста ІІ Хутка замак быў абкружаны, і ген артылерыі ВКЛ Сініцкі дамогся яго здачы (гл *Быхава аблога 1702*) Неўзабаве і Сініцкі перайшоў на бок Карла XII Петр тэрмінова накіраваў супраць яго некалькі рус палкоў Пасля аблогі і бамбардзіроўкі гарнізон Б з капітуляваў (гл *Быхава абарона 1707*)

*Літ* Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси Вильна, 1867 Т 1 С 175—177 391, Белоруссия в эпоху феодализма Сб документов и материалов Мн, 1960 Т 2 С 80, 103, Летопись самовидца Киев, 1878 С 41 Всеобщая история искусств Т 1 М, 1956, Ткачев М А Замки Белоруссии Мн 1987 С 180—186
*М А Ткачоў*

**БЫ́ХАЎСКІ ПАВЕ́Т**, Старабыхаўскі павет (да 1852) Існаваў на тэр Беларусі ў 1772—96 і 1802—1923 Утвораны 28 5 (8 6) 1772 пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай Цэнтр — г. Быхаў (Стары Быхаў) 12 (23) 12 1796 пры скасаванні *Магілеўскай губерні* павет ска-

саваны, тэр. ўвайшла ў склад *Беларускай губерні*. Адноўлены 27.2(11.3). 1802 пры аднаўленні Магілёўскай губ. Пл. павета 4105,8 кв. вёрст, нас. 124 820 чал. (1897). У склад павета ўваходзіла 10 валасцей: Баханская, Бычанская (раней Новабычанская), Гарадзецкая (пазней Старабыхаўская), Гарадзішчанская, Глухаўская, Грудзінаўская (раней Царкоўнаасавецкая), Даўгамохская, Навабыхаўская, Прапойская, Чыгірынская; 476 населеных пунктаў (1897), у т. л. мястэчкі Гейшын, Дашкаўка, Журавічы, Новы Быхаў, Прапойск і інш. Пасля Кастр. рэвалюцыі павет у складзе Магілёўскай губ. ўваходзіў у *Заходнюю вобласць* (1917—18), *Заходнюю камуну* (1918) РСФСР. З абвяшчэннем Беларускай ССР (1.1.1919) Б. п. у складзе БССР. З лют. 1919 у складзе Магілёўскай (з 26.4.1919 Гомельскай) губ. РСФСР. 14.2.1923 павет скасаваны. Яго валасці перададзены ў склад Магілёўскага (Глухаўская, Гарадзішчанская, Грудзінаўская, Старабыхаўская і г. Быхаў), Рагачоўскага (Баханская, Бычанская, Навабыхаўская, Чыгірынская) і Чэрыкаўскага (Даўгамохская і Прапойская) паветаў Гомельскай губ. 3.3.1924 тэр. былога Б. п. па граніцах адм.-тэр. падзелу 1920 перададзена ў склад БССР і ўключана ў *Магілёўскую акругу*.

*Кр.:* Документы и материалы по истории Белоруссии (1900—1917 гг.). Мн., 1953. Т. 3. С. 21, 26.

*Літ.:* Адміністрацыйна-тэрытарыяльны падзел Беларусі. Мн., 1985. С. 6, 7, 20, 78; Административно-территориальное устройство БССР: Справ. Мн., 1985. Т. 1. С. 113; Волости и важнейшие селения Европейской России. Спб., 1886. Вып. 5. С. 154—156, 161—162; Зуев И. И. Список населенных местностей и краткий статистический обзор Быховского уезда Могилевской губернии. Могилев, 1886; Круталевич В. А. Административно-территориальное устройство БССР. Мн., 1966. С. 199.

*М. І. Камінскі.*

**БЫ́ХАЎСКІ РАЁН.** Размешчаны ў паўд. частцы Магілёўскай вобл. Пл. 2,3 тыс. км$^2$, нас. 51,2 тыс. чал. (1993). Цэнтр — г. *Быхаў*. Тэр. раёна ў межах Цэнтр.-Бярэзінскай і Чачэрскай раўнін. Працякаюць рэкі Дняпро з прытокамі Ухлясць, Лахва, Баброўка, Макранка і інш., Друць з прытокамі Грэза і Балонаўка. На мяжы з Кіраўскім р-нам на Друці створана Чыгірынскае вадасховішча. Праходзяць чыгунка і аўтадарога Магілёў — Рагачоў, аўтадарогі Магілёў — Гомель, Магілёў — Бабруйск.

Раён утвораны 17.7.1924 у Магілёўскай акрузе (да 26.7.1930). 20.8.1924 падзелены на 19 сельсаветаў: Баркалабаўскі, Быхаўскі, Гарадзецкі, Глухскі, Грудзінаўскі 1-ы, Грудзінаўскі 2-гі (з 24.9. 1926 нац. латышскі), Дабужскі (з 21.8. 1925 Трылесінскі), Лудчыцкі, Макроўскі (Макранскі), Навабыхаўскі, Ніканавіцкі, Следзюкоўскі, Студзёнкаўскі (Студзянецкі), Сялец-Халапееўскі, Тайманаўскі (Тайменаўскі), Узніцкі (з 20.4.1939 Чырвонаслабодскі), Царкоўнаасавецкі (з 6.3.1925 Чырвонаасавецкі), Чырвонабярэжскі, Ямненскі. 8.7.1931 да раёна далучаны Балонава-Сялецкі (з 18.2.1972 Чарнаборскі), Дунайкоўскі, Кучынскі, Падсельскі, Чачэвіцкі, Чыгірынкаўскі сельсаветы б. Чачэвіцкага р-на, Абідавіцкі, Баханскі, Званецкі, Вяліказімніцкі (Зімніцкі, Малазімніцкі), Ісканскі, Хатаўнянскі сельсаветы б. Журавіцкага р-на. 5.12.1931 Званецкі сельсавет перададзены Рагачоўскаму р-ну, 12.5.1935 Абідавіцкі, Баханскі, Вяліказімніцкі, Ісканскі, Сялец-Халапееўскі, Хатаўнянскі сельсаветы — Доўскаму, Падсельскі і Чыгірынкаўскі сельсаветы — Кіраўскаму р-нам. З 15.1.1938 Б. р. уваходзіць у Магілёўскую вобл.

У 1920-я г. ў раёне развівалася прамысловая кааперацыя, мадэрнізаваліся старыя прадпрыемствы, будаваліся новыя. У Сарочынскай камуне імя К. Лібкнехта заснаваны крухмальны завод, у в. Лазаравічы — мелавая арцель, каля в. Сядзіч — прамысловыя арцелі «Чырвоны будаўнік», «Працоўны смалакур». Існавалі прам. арцелі «Металіст», шавецкая «Чырвоны саматужнік», кравецкая «Аб'яднанне» і інш. Прымусовая калектывізацыя сельскай гаспадаркі (канец 1920-х — 1930-я гады), якая суправаджалася т. зв. раскулачваннем, выклікала процідзеянне з боку сялян, «жаночыя бунты» (у вёсках Рыжкаўка, Верхняя Тошчыца), падпалы калгасных будынкаў, тэрарыст. акты. У 1939 у раёне былі 142 калгасы, якія аб'ядноўвалі больш за 12 тыс. сялянскіх гаспадарак. Праводзілася перасяленне калгаснікаў з хутароў у вёскі. У Быхаве, Лудчыцах, Кузькавічах створаны МТС, палітаддзелы якіх выдавалі газеты. У 1930-я гады больш інтэнсіўна вялося будаўніцтва і рэканструкцыя прам. прадпрыемстваў. У 1935 рэканструяваны шклозавод «Ільіч», побач з ім вырас рабочы пасёлак, у в. Ямнае пабудаваны торфазавод «Другая пяцігодка». У 1938 у раёне працавалі 22 прадпрыемствы. У 1931 дзейнічалі 112 школ з 4-гадовым і 8 школ з 7-гадовым тэрмінам навучання і школа сельскай моладзі, у якіх займалася 12,7 тыс. вучняў, працавала 275 настаўнікаў; у 1940 — 101 школа (17 тыс. вучняў).

У пачатку Вял. Айч. вайны Быхаўшчына была арэнай кровапралітных баёў паміж часцямі Чырв. Арміі і ням.-фаш. захопнікамі. Тэрыторыю раёна абараняла ад ворага 187-я стралк. дывізія (камандзір палк. І. І. Іваноў). Найбольш жорсткія баі адбыліся пад Быхавам, каля вёсак Заячэнне, Хачынка, Прыбяражжа, Грудзінаўка, Рыжкаўка, Іскань. У ліп. 1941 Быхаўшчына акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Акупацыйны рэжым падтрымліваўся пры дапамозе вайск. гарнізонаў у буйных нас. пунктах і паліцэйскіх участкаў, пастоў і гарнізонаў у валасных цэнтрах і інш. вёсках. Фашысты знішчылі ў раёне каля 10 тыс. чал. цывільнага насельніцтва, спалілі разам з жыхарамі вёскі Боўкі, Ветранка, Віляга, Гарадзец, Дабужа, Красніца, Сяліба, Смаліца, Хамічы, Залатое Дно (апошняя не адрадзілася), пасёлак Студзёнка. У лютым — крас. 1942 на тэр. раёна зарадзіўся партыз. рух. На працягу акупацыі тут дзейнічалі партыз. фарміраванні Быхаўскай ваенна-аператыўнай групы, а таксама партыз. брыгады 5-я Клічаўская, 8-я Рагачоўская, 17-я, 61-я; палкі «Трынаццаць», 15-ы, 113-ы, 121-ы імя А. М. Касаева, 208-ы імя Сталіна, 255-ы, 277-ы, 537-ы; асобныя партыз. атрады. Функцыяніравалі Быхаўскія падп. райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ, выдавалася падп. газета «Партызан Быхаўшчыны». Летам і восенню 1942, у маі 1943 нямецкае камандаванне правяло супраць партызан буйныя карныя аперацыі.

Цяжкія баі з карнікамі адбыліся ў кастр. 1943 каля в. Боўкі (гл. *Боўканская абарона 1943*). У ліст. 1943 войскі 3-й арміі (камандуючы ген.-лейт. А. В. Гарбатаў) Бел. фронту і 50-й арміі (камандуючы ген.-лейт. І. В. Болдзін) Зах. фронту, прарваўшы абарону праціўніка на р. Сож, выйшлі да Дняпра, авалодалі вёскамі Палянінавічы, Іскань, Халапеева (цяпер Сялец), Абідавічы, Вець; у ноч на 11.12. 1943 былі вызвалены Хачынка і Папоўка, затым Чырвоная Слабада, Усохі, Ніканавічы і інш. вёскі левабярэжжа Быхаўшчыны. На працягу больш чым 7 месяцаў па тэр. раёна праходзіла лінія фронту. У лютым 1944 сав войскі прарвалі абарону праціўніка на правым беразе Дняпра і вызвалілі нас. пункты Новы Быхаў, Янава, Калініна, Тайманава, Верхняя і Ніжняя Тошчыца, Дзедава, у сак. 1944 — вёску Красніцу. 28.6.1944 у ходзе Беларускай аперацыі войскі 2-га Бел. фронту (камандуючы ген.-палк. Г. Ф. Захараў) вызвалілі Быхаў, у наступныя дні — астатнюю частку раёна.

Да 1946 гаспадарка раёна пераведзена на мірны лад. 17.12.1956 да Б. р. далучаны Абідавіцкі, Баханскі, Вяліказімніцкі, Палянінавіцкі сельсаветы Журавіцкага р-на Гомельскай вобл., 31.3.1958 Баханскі і Вяліказімніцкі сельсаветы перададзены Слаўгарадскаму р-ну. З 25.12. 1962 да раёна далучаны г. Слаўгарад, Баханскі, Васьковіцкі, Кульшыцкі і Свенскі сельсаветы Слаўгарадскага р-на (з 6.1.1965 зноў у Слаўгарадскім р-не). На 1.1.1989 у раёне 236 нас. пунктаў, 15 сельсаветаў· Абідавіцкі, Баркалабаўскі, Верхнятошчыцкі, Гарадзецкі, Глухскі, Грудзінаўскі, Дунайкоўскі, Лудчыцкі, Навабыхаўскі, Следзюкоўскі, Трылесінскі, Холстаўскі, Чарнаборскі, Чырвонаслабодскі, Ямненскі; 15 калгасаў і 14 саўгасаў, племзавод «Вараніно», якія спецыялізуюцца на малочна-мясной жывёлагадоўлі, ільнаводстве. Дзейнічаюць прадпрыемствы харчовай, лёгкай, паліўнай прамысловасці, будматэрыялаў. Ёсць лесапаляўнічая гаспадарка На тэр. раёна працуюць 20 сярэдніх, 20 васьмігадовых, 22 пачатковыя, 5 муз. і дзіцячая спарт. школы, 2 камбінаты вытв. навучання, 4 пазашкольныя і 37 дашкольных устаноў, Дом піянераў. Медыцынскае абслугоўванне насельніцтва горада і вёсак ажыццяўляюць раённая і 8 участковых бальніц, 2 урачэбныя амбулаторыі, 33 фельчарска-акушэрскія пункты, раённая і стаматалагічная паліклінікі. Выдаецца раённая газ. «Маяк Прыдняпроўя».

У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС (1986) частка тэр. раёна забруджана радыеактыўнымі элементамі Жыхары вёскі Александроў, дзе забруджанасць найбольшая, пераселены ў чыстыя зоны. Узровень радыяцыі перавышае норму ў Быхаве, лясных масівах Баркалабаўскага, Навабыхаўскага, Вараніkоўскага, Прыбарскага, Трылесінскага лясніцтваў, на пойме Дняпра.

Найб. значныя археал. помнікі: Абідавічы, *Баркалабава*, Бароўка, *Вець*, Дабужа, *Дальняе Ляда*, Лудчыцы, Ніжняя Тошчыца, *Новы Быхаў*, *Нярагж*, *Тайманава*, Хамічы, Янава і інш. Брацкія магілы сав. воінаў, партызан і падпольшчыкаў у вёсках Абідавічы, Грудзінаўка, Дуброва, Заячэнне, Іскань, Красніца 1-я, Кучын, Лудчыцы, Ніканавічы, Новы Быхаў, Палкі, Палянінавічы, Следзюкі, Сялец, Ульянава, Чырвоная Беларусь, Чырвоны Асавец; у пасёлках Калініна, Ухлясць і інш. на чыг. ст. Тошчыца і каля яе; вайсковыя могілкі ў пас. Заводчык і в. Хамічы; магіла ахвяр фашызму, сав. воінаў і партызан (в. Гарадзец). Помнікі: Героям Сав. Саюза І. А. Барысевічу (в. Сялец), Ф. А. Смалячкову (каля в. Вараніно і ў в. Падгор'е), Г. М. Надтачэеву (в. Красніца 1-я), Ф. Ф Раўчакову (в. Кузькавічы), Г. М. Станкевічу (в. Сялiба); арганізатарам патрыят. падполля і партыз руху на Быхаўшчыне С. Е. Падольцаву і А. П Тамілу (в. Леніна); аднаму з кіраўнікоў камсамольска-маладзежнага падполля на Быхаўшчыне Дз. Я. Бычанкову (в. Прыбар); ахвярам фашызму (в. Красніца 1-я, пас. Студзенка); у гонар штаба 2-й Зах. рус. арміі П. І. Баграціёна (в. Сапяжынка), першай на Быхаўшчыне с.-г. рабочай камуны імя К. Лібкнехта (в. Сарочына), Быхаўскіх падп. райкомаў КП(б)Б, ЛКСМБ і 11-й Быхаўскай партыз. брыгады (в. Барсукі), фарсіравання Дняпра войскамі 2-га Бел. фронту (в. Баркалабава); сав. воінам (в. Сялец); партызанам (вёскі Барсукі, Ветранка, Гамарня, Дзедава); мемарыял Воінскай Славы (каля в. Лудчыцы), мемарыяльны комплекс у гонар Быхаўскай ваенна-аператыўнай групы (каля в. Барсукі); мемарыяльны знак на месцы спаленага пас. Залатое Дно; Курган Бессмяротнасці ў гонар партызан (в. Дабужа). Помнікі архітэктуры цэрквы 19 ст. ў в. Балонаў-Сялец і Успенская ў в. Мокрае, пач. 20 ст. ў в. Лубянка і Казанскай Маці Боскай у в. Баркалабава, палацава-паркавы ансамбль 19 ст. (в. Грудзінаўка). Радзіма аднаго з арганізатараў сял. паўстання ў час антыфеад. вайны 1648—51 Ф. Гаркушы, акад. АН Беларусі К. І. Лукашова, чл.-кар. АН Беларусі А. А. Вавілава і інш.

*Літ* Памяць Гіст.-дакум хроніка Быхаўскага р-на Мн, 1990, Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Магілеўская вобл Мн, 1986

**БЫХАЎСКІ РАЁН**

**БЫ́ХАЎСКІЯ ВЫСТУПЛЕ́ННІ СЯЛЯ́Н 1829—34.** Адбыліся ў Быхаўскім маентку Сапегаў за вызваленне сялян ад прыгоннай залежнасці. У 1829 у час праезду праз Быхаў цара Мікалая І сяляне падалі яму скаргу на ўладальнікаў маентка, якія незаконна перавялі мясц. жыхароў, што да сярэдзіны 18 ст. лічыліся вольнымі мяшчанамі, на становішча прыгонных сялян і ўстанавілі непасільныя павіннасці. Да вырашэння справы сяляне адмовіліся выконваць работы ў маентку, па-

сылалі ў Пецярбург новыя скаргі. У адказ адміністрацыя маентка ўзяла пад стражу «найбольш дзёрзкіх завадатараў» Ф. Ждана, П. Арлоўскага, І. Мышкіна, пагражаючы пакараць астатніх бізунамі. Аднак спыніць хваляванне не ўдалося. У жн. 1830 сял. хадакі І. Арлоўскі і А. Фядотаў з копіямі дакументаў 18 ст. пабывалі ў Пецярбургу. На працягу 1831—32 прадстаўнікі сялян у пошуках справядлівасці неаднаразова звярталіся да міністра ўнутр. спраў, бел. ген.-губернатара, інш. чыноўнікаў. Нягледзячы на безвыніковасць гэтых зваротаў і рэпрэсіі з боку ўлад (16 чал. былі арыштаваны і пакараны бізунамі, Ждан і П. Арлоўскі сасланы ў Сібір), сяляне не адмовіліся ад сваіх патрабаванняў. У крас. 1833 хваляванне аднавілася ў сувязі з перадачай маентка ў казну за ўдзел Сапегі ў паўстанні 1830—31. Сяляне байкатавалі работы, прызначаныя чыноўнікам казённай палаты, адбілі ўзятых пад стражу важакоў. У лютым 1834 пасля чарговага арышту кіраўнікоў выступлення 60 сялян зноў адмовіліся выконваць паншчыну. Створаная для разбору справы камісія ў складзе пав. прадвадзіцеля дваранства, пав. стрэпчага і акруговага ваен. начальніка прыйшла да заключэння, што «дух непаслушэнства разліўся па ўсёй грамадзе». Для ўціхамірвання сялян было вырашана ўжыць вайск. сілу. у сак. 1834 у Быхаве раскватаравалі 4 батальёны салдат рэзервовай дывізіі 5-га пях. корпуса. Але нават пад канвоем сяляне некалькі разоў адмаўляліся выходзіць на паншчыну, летам адбылося некалькі сутычак з салдатамі. Толькі ў вер. 1834 хваляванне ўдалося задушыць. 20 сялян былі асуджаны ваен. судом да 50 удараў бізунамі і ссылкі ў Сібір, многія пакараны розгамі.

*Літ.:* Чепко В. В. Классовая борьба в белорусской деревне в первой половине XIX в. Мн., 1972. С. 136—140. *В. У. Чапко.*

**БЫХАЎСКІЯ ГАРАДСКІЯ ЎМАЦАВАННІ.** Існавалі ў 16—18 ст. Уключалі земляны вал (даўж. 800 м, выш. 7—8 м, шыр. ў аснове да 30 м) з бастыёнамі, равелінамі і мураванымі ўязнымі брамамі, амаль такой жа даўжыні абарончы роў, у якім пастаянна была вада. Уваход і выхад з горада ажыццяўляўся праз брамы Падольную (Дольную), што вяла на бераг Дняпра, Магілёўскую (у паўн. частцы горада) і Рагачоўскую (Навабыхаўскую), якая адкрывала шлях у гарады Падняпроўя. Будаўніцтва гар. умацаванняў, як і *Быхаўскага замка*, пачата ў 1590 уладальнікам Быхава Я. Н. Хадкевічам паводле каралеўскай граматы, скончана пасля 1625 пры новым уладальніку горада Л. Сапегу. Як і інш. бел. гарады, Быхаў меў вайск. арганізацыю мяшчан і валашчан, аб'яднаных у дзесяткі і сотні. Яны былі ўзброены халоднай і агнястрэльнай зброяй, мелі свае харугвы (баявыя сцягі), бубны і трубы, рэгулярна ставіліся на «попіс» перад мясц. адміністратарам — «губернатарам». Традыцыя «попіса» была старажытнаю, і яе прытрымліваліся «водлуг давнего звычаю». Павятовая шляхта таксама штогод «пописывалася на святого Михала водлуг давнего звычаю». Усе жыхары горада штогод з вясны да замаразкаў займаліся фартыфікацыйна-будаўнічымі работамі, пад наглядам «губернатара» бясплатна рамантавалі і насыпалі валы, чысцілі і паглыблялі роў. Сяляне Быхаўскай вол. летам (пасеяўшы яравыя) і восенню («з поля сойдя») да замаразкаў мусілі «водлуг давней повинности своее валовую работу полнити» ў адпаведнасці з распараджэннем адміністрацыі. Мяшчанскае апалчэнне Быхава ў 16—18 ст. было першакласна ўзброена. У дакументах 16 ст. упамінаюцца ручніцы, гакаўніцы, пулгакі, сагайдакі (лук з калчанам і стрэлкамі), коп'і, панцыры кольчатыя і інш., а таксама разнастайная артылерыя калібрам ад 1 да 100 фунтаў. Апрача разнастайнай халоднай зброі, як правіла мясцовай вытв-сці, у 17—18 ст. тут у дастатковай колькасці было аркебузаў, мушкетаў, пісталетаў, абушковай зброі, амуніцыі. У 1648 Б. г. ў. вытрымалі аблогу і штурмы ўкр. казакоў Ф. Гаркушы. На пачатку *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* Быхаў выстаяў у час 11-месячнай аблогі ўкр. казакоў на чале з І. Н. Залатарэнкам і 11 палкоў рус. войска ваяводы А. М. Трубяцкога (гл. *Быхава аблога 1654—55*). У пач. 1657 горад быў заняты рус. і казацкімі войскамі І. Нячая. Пасля пераходу ў 1658 Нячая на бок караля Рэчы Паспалітай у 1659 рус. войскі зноў захапілі Быхаў і ўтрымлівалі яго да снеж. 1661 (гл. *Быхава абарона 1659, Быхава аблога 1660—61*). У час *Паўночнай вайны 1700—21* Б. г. ў. двойчы ў 1702 і 1707 удала штурмавалі войскі Пятра І і яго саюзніка караля Рэчы Паспалітай Аўгуста II (гл. *Быхава аблога 1702, Быхава абарона 1707*). У 1716 рус. войскі канчаткова пакінулі Быхаў, папярэдне разбурыўшы гар. брамы і бастыёны ўмацаванняў, а «место выпалить хотели, но убогие мещане со слезами едва отпроснлись». Толькі праз шмат гадоў пасля вайны Б. г. ў. былі адноўлены і праіснавалі да канца 18 ст.

*Літ.:* Грицкевич А. П. Частновладельческие города Белоруссии в XVI—XVIII вв. Мн., 1975. С. 48—49, 222, 228; Мальцев А. Н. Россия и Белоруссия в середине XVII в. М., 1974. С. 78—99; Абецедарский Л. С. Белоруссия и Россия. Очерки русско-белорусских связей второй половины XVI—XVII в. Мн., 1978. С. 39, 196; Ткачев М. А. Замки Белоруссии. Мн., 1987. С. 180—186.

*М. А. Ткачоў.*

**БЫХАЎЦА ХРОНІКА,** гл. *Хроніка Быхаўца.*

**БЫХАЎЦЫ,** старажытны шляхецкі род герба «Магіла», прадстаўнікі якога займалі дзярж. пасады ў ВКЛ, Рэчы Паспалітай і Расійскай імперыі. Вядомы з 16 ст. Заснавальнік роду Міцька Быхавец меў сыноў Васіля, Васька і Андрэя. Вялікі князь ВКЛ і кароль Польшчы Жыгімонт І Стары дараваў «баярам смалеискім» Васілю і Ваську 12 «неаседлых» весак у Дарсуніскім пав. Васько ў 1514 стаў уладальнікам яшчэ 8 весак. Андрэй у 1536 атрымаў землі ў Трокскім пав. Б. таксама валодалі маенткамі ў Мінскай, Віленскай, Гродзенскай губ. Найб. буйныя з іх Лыскава і Магілеўцы з фальваркамі Лібярполь, Гута, Разалін з хутарамі Копан, Палько, Сасенкі і Крупа. У 1822 у гэтых маентках было 1470 сялян. Б. былі ўладальнікамі папяровай мануфактуры (Лыскава, 1711—24), шклозавода (1738), лесаапрацоўчых з-даў, бровараў. У 1835 у кнігі шляхты Гродзенскай губ. ўпісаны Б. Ян (сын Ігнацыя), стрыечны брат Яна Язэп з сынамі Адамам, Янам і Аляксандрам. У 1858 у кнігі шляхты Віленскай губ. ўпісаны Казімір (сын Тадэвуша) з сынам Яўхімам і ўнукамі Ежы, Язэпам і Казімірам і Яўхім з сынам Фердынандам. У ЦДГА Беларусі ў Гродне захоўваецца фонд Б., які ўключае 893 адзінкі захоўвання.

Найбольш вядомыя Б.:

Мікалай (?—?), дэпутат Трыбунала ВКЛ (1589).

Крыштоф (?—?), намеснік трокскі (1615).

Зміцер (Дзімітрый, ?—?), сын Мікалая, пісар гродскі трокскі (1615), падчашы трокскі (1629—33).

Язэп (Юзаф, ?—?), дэпутат Трокскага ваяв. на Люблінскім трыбунале (1627).

Ян (?—1655), сын Зміцера, стольнік трокскі, палк. ВКЛ. Загінуў у бітве.

Война (?—?), пасол трокскі. Падпісаў элекцыю (пагадненне аб галасаванні на элекцыйным сойме) Уладзіслава IV Вазы з Трокскім ваяводствам (1632).

Міхал (?—?), падстолі і падчашы трокскі, маршалак Трыбунала ВКЛ (1646).

Самуэль (?—?), падстароста слонімскі (1658).

Мацей (?—?), пісар земскі трокскі (1671).

Міхал (?—?), харужы і пасол трокскі (1678), цівун, харужы і пасол трокскі (1688).

Мікалай з Цывіна (?—?), харужы трокскі, маршалак Трыбунала ВКЛ, пасол сойма (1680), стольнік інфляндскі (1716). Падпісаў элекцыю Міхала Карыбута Вішнявецкага з Трокскім ваяводствам (1669).

Самуэль (?—?), староста люцынскі (1716). У 1689 указам караля Рэчы Паспалітай Яна III Сабескага асуджаны на вечнае выгнанне (вываланне, баніцыю). У 1693 меў дом у Гродне. Быў жанаты з Хрысцінай з роду Кунцэвічаў-Дэнгоф.

Дамінік (?—?), падпісаў элекцыю Аўгуста II Моцнага з Браслаўскім ваяводствам (1697).

Якуб (?—?), разам з Янам падпісаў элекцыю Аўгуста II Моцнага з Трокскім ваяводствам (1697).

Ян (?—?), скарбнік трокскі. У 1697 разам з Якубам падпісаў элекцыю Аўгуста II Моцнага з Трокскім ваяводствам, у маентку Мазепы папярэдзіў казацкае войска аб падыходзе татар.

Уладзіслаў (?—10.8.1761), сын Самуэля, падчашы менскі (1715), суддзя

земскі ваўкавыскі, падстароста (камісар) Ваўкавыскага пав. (1738—46).

Людвік (?—?), сын Самуэля, пісар скарба ВКЛ (1734). Валодаў домам і надзелам у Гродне, якія ў 1729 перадаў брату Уладзіславу.

Людвік (?—?), ксёндз, сакратар Літоўскай правінцыі ордэна бернардзінцаў. Да 1747 прэзідэнт у Нясвіжскім канвенце бернардзінцаў, назіральнік законуֻ Святога Францыска ў Віцебскім ваяв. (1760). Аўтар твораў рэліг.-павучальнага характару на польскай мове.

Ян (?—1790), сын Самуэля, ксёндз Віленскай капэлы езуітаў (з 1705), канцлер і канонік віленскі.

Ігнацы (?—?), суддзя земскі, падстолі Ваўкавыскага (1780) і Слонімскага (1781) паветаў.

Ян (?—1791), брат Ігнацыя, суддзя гродскі трокскі (1733), падпісаў элекцыю Аўгуста III з Трокскім ваяв. (1733). Суддзя земскі і войскі трокскі (1758), суддзя земскі і войскі ваўкавыскі (1758), суддзя гродскі і пасол ваўкавыскі (1764—83), падкаморы (1765), маршалак ваўкавыскі (1769). Кавалер ордэна святога Станіслава.

Язэп (Юзаф) Уладзіслаў (1778, маёнтак Хмяльніца Слонімскага пав.—5.7.1845), сын Ігнацыя, філосаф, перакладчык філас. літаратуры, у т. л. твораў Э. Канта. Скончыў Галоўную школу ВКЛ у 1794, займаўся ва універсітэтах Франкфурта-на-Одэры, Гётынгена, Кёнігсберга. Вучань Канта. Служыў у франц. войску (1806—09), пазней — у мін-ве справядлівасці (юстыцыі) урада Варшаўскага герцагства (княства). З 1812 ад'ютант неапалітанскага караля Мюрата. Пасля завяршэння напалеонаўскіх войнаў жыў у Варшаве, у 1816 беспаспяхова ўдзельнічаў у конкурсе на замяшчэнне пасады кіраўніка кафедры філасофіі Аляксандраўскага (Варшаўскага) ун-та. У 1817 пераехаў у Вільню, дзе і памёр.

Ян (каля 1732—?), сын Ігнацыя, дэпутат Трыбунала ВКЛ (1797—1802), суддзя земскі слонімскі (1802—08), межавы суддзя слонімскага межавога апеляцыйнага суда (1814—30), старшыня слонімскага межавога суда (1830—32).

Язэп (Юзаф; н. ў маёнтку Хмяльніца Слонімскага пав.— ?), сын Яна, падстолі ваўкавыскі (1780), камергер караля Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста Панятоўскага, краўчы літоўскі (1793). Кавалер ордэна святога Станіслава.

Адам Ян Віктар (23.12.1796, маёнтак Лыскава — ?), сын Язэпа, член ваўкавыскага апеляцыйнага суда. За ўдзел у паўстанні 1863—64 арыштаваны ў 1863 і асуджаны ваенна-следчай камісіяй да ссылкі. У 1866 жыў пад наглядам паліцыі ў г. Нараўчат Пензенскай губ.

Аляксандр (?—?), старшыня ваўкавыскага межавога апеляцыйнага суда. У яго б-цы ў 1820-я гады захоўвалася *Хроніка Быхаўца*.

*Літ.*: Boniecki A. Herbarz polski. T. 1, cz. 1. Warszawa, 1899; Bibliografia polska. Cz. 3, t. 2. Kraków, 1894; Rodzina. Herbarz szlachty polskiej. T. 2. Warszawa, 1905; Wolf J. Senatorowie i dygnitarze Wielkiego Księstwa Litewskiego, 1386—1795. Kraków, 1885.

*А. П. Госцеў.*

**БЫЦЕНСКАЕ ВЫСТУПЛЕННЕ СЯЛЯН 1856—57**, выступленне прыгонных сялян маёнтка Быцень Слонімскага пав. (цяпер Івацэвіцкі р-н) з патрабаваннем пераводу іх у катэгорыю дзяржаўных. Было адной з праяў крызісу феад.-прыгонніцкай сістэмы напярэдадні *сялянскай рэформы 1861*. Выступленне пашырылася на вёскі Гнойна (цяпер Вішнёўка), Даманава, Доўгая, Дражна, Зарэчча, Каханова, Кочына, Рудня і інш. Пачалося ў ліст. 1856 пры раздачы сялянам па распараджэнні ўрада спец. кніжак, у якіх фіксаваліся памеры паншчынных павіннасцей і розных плацяжоў. Знаходзячыся пад уплывам чутак аб нібыта існуючым царскім указе пра скасаванне прыгону, сяляне адмаўляліся прымаць гэтыя дакументы і заяўлялі, што «не жадаюць быць прыгоннымі сялянамі сваіх уладальнікаў, а хочуць быць казённымі». Многія вяскоўцы не выйшлі на паншчыну, спынілі выплату дзярж. падаткаў, адмовіліся ссыпаць збожжа ў хлебазапасны магазін. Яны не падпарадкаваліся ўгаворам земскага спраўніка, што прыбыў у маёнтак, сілай вызвалілі з-пад стражы свайго важака К. Райку. Для ўціхамірвання сялян былі накіраваны паліцэйскі атрад, а потым 2 сотні казакоў, якія на працягу 8 месяцаў знаходзіліся на пастоі ў маёнтку. Аднак пасля іх адыходу 400 сялян вёсак Гнойна і Даманава зноў адмовіліся выходзіць на паншчыну. Улады вымушаны былі паслаць у маёнтак 2 роты салдат стралк. батальёна, пры дапамозе якіх пад асабістым кіраўніцтвам гродзенскага губернатара праведзена следства і ўчынена расправа. Частка сялян асуджана на катаржныя работы ў Сібір, іншыя здадзены ў рэкруты.

*Літ.*: Чепко В. В. Классовая борьба в белорусской деревне в первой половине XIX в. Мн., 1972. С. 250—252; Мельцар М. Д. Да гісторыі сялянскага руху на тэрыторыі Беларусі перад сялянскай рэформай 1861 года // Вуч. зап. БДУ. Сер. гіст. 1948. Вып. 6. С. 19—20. *В. У. Чапко.*

**БЫЦЕНСКІ КЛЯШТАР БАЗЫЛЬЯН**. Існаваў у 1607—1845 у мяст. *Быцень* (цяпер Івацэвіцкі р-н). Заснаваны ўласнікам Быценя Р. Р. Трызнам для дачкі Еўфразіны, якая, аднак, пайшла да віленскіх базыльянак, таму быценскі кляштар стаў мужчынскім. Настаяцелі І. Кунцэвіч (да 1613), затым Катлубай, Д. Цісовіч (да 1640). С. Стаўроўскі (да 1654). У 1615 папа рымскі даў кляштару прывілей на адкрыццё духоўнай школы (навіцыяту), у якой затым навучалася шмат дзеячаў уніяцкай царквы. У 1626 М. Трызна заснаваў шпіталь на 10 месцаў. Навіцыят і шпіталь існавалі да 1830-х гадоў. Першыя будынкі кляштара драўляныя. У 1640 М. Трызна перадаў манахам мяст. і маёнтак Быцень, заклаў каменную царкву (магчыма, сучасная Успенская царква), якая, відаць, была і сямейнай пахавальняй. У час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* кляштар даў прытулак базыльянам з Вільні, Полацка, Віцебска, Мінска. Настаяцель Б. Цярлецкі (часовы кіраўнік ордэна) вывез сюды з Віленскага Троіцкага манастыра цудатворны абраз Маці Боскай і інш. царк. каштоўнасці. Тут захоўвауся жыровіцкі абраз Маці Боскай, жыў уласнік абраза Маці Боскай (пазней вядомы як цудатворны ў Барунскім кляштары базыльян) І. Бражыц. Б. к. б. лічыўся адным з заможных у ордэне, яго фундушавы маёнтак Дзяткавічы (22 дымы, 30 валок ворнай зямлі, 4 валокі лесу) у 1613 і 1634 яшчэ больш павялічаны. У 1775 падскарбі надворны літоўскі А. Тызенгаўз, нашчадак Трызнаў, адсудзіў у базыльян мястэчка. У 1712 навагрудскі гараднічы І. Бакаdebugоўскі запісаў кляштару в. Мілавіды. У пач. 18 ст. пры І. Пяткевічу (памёр у 1708) пабудавана Троіцкая царква — крыжовая ў плане, з 2-вежавым фасадам і паўкруглымі ў плане апсідай і трансептам. У 1730—37 у ёй усталяваны разны іканастас і 11 алтароў. Да царквы прымыкаў 2-павярховы жылы корпус. З 1814 кляштару належаў маёнтак Гошчава. У часы скасавання уніяцкай царквы (1839) у Б. к. б. інтэрніравалі непакорных уніяцкіх святароў. Троіцкая царква і жылы корпус кляштара разбураны ў час 1-й сусв. вайны. Захаваліся Успенская царква і абраз «Спас Уседзяржыцель» 16 ст.

*А. А. Ярашэвіч.*

**БЫЦЕНСКІ РАЁН**, адм.-тэр. адзінка ў БССР у 1940—57. Утвораны 15.1.1940. Знаходзіўся ў складзе Баранавіцкай, з 8.1.1954 Брэсцкай абл. Цэнтр — в. *Быцень*. Пл. 1,1 тыс. км², 54 населеныя пункты. 12.10.1940 раён падзелены на 11 сельсаветаў: Быценскі, Волькаўскі, Гавінавіцкі, Гуцкі, Дабрамысленскі, Доўгаўскі, Даманаўскі, Зарэцкі, Мілавідскі, Тухавіцкі, Яміцкі. У ліп. 1954 скасаваны Зарэцкі і Яміцкі сельсаветы. 14.10.1957 Б. р. скасаваны, яго сельсаветы перададзены ў суседнія раёны: Быценскі, Волькаўскі, Дабрамысленскі, Доўгаўскі, Даманаўскі — у Івацэвіцкі р-н, Гавінавіцкі і Мілавідскі — у Баранавіцкі, Гуцкі і Тухавіцкі — у Ляхавіцкі р-ны.

*М. І. Камінскі.*

**БЫЦЕНЬ**, вёска Івацэвіцкага р-на, цэнтр сельсавета і калгаса «Быценскі». За 28 км на ПнУ ад Івацэвіч, 7 км ад чыг. ст. Даманава, на аўтадарозе Івацэвічы — Слонім. 1047 двароў, 2759 ж. (1990).

У пісьмовых крыніцах 16 ст. названы як двор і мяст. Слонімскага пав. ВКЛ. Належалі Марціну Пяткевічу, князям Сямёну Адзінцэвічу і Фёдару Галаўні, Ярашу Карыцкаму. У 1570 налічваў 25 дамоў і належаў старосце жамойцкаму, маршалку земскаму ВКЛ Яну Хадкевічу. У 1640 уладальнік Б. падскарбі ВКЛ Мікалай Трызна перадаў маёнтак і мястэчка кляштару базыльян, заснаванаму ў пач. 17 ст. Моцна разбураны ў 1655 у час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67*. У 1708—10 пабудавана каменная царква (не зберaглася).

У 1766—1914 у Б. працавала суконная ф-ка. У час *паўстання 1794* яна разбурана, пазней адноўлена і значна пашырана (80 рабочых у 1896). Пасля працяглых судовых працэсаў Б. у 1779 перайшоў у валоданне нашчадкам Трызнаў — Тызенгаўзам З 1795 Б. мяст. Слонімскага пав ў складзе Расійскай імперыі. У 1856—58 тут адбыліся антыфеад выступленні сялян маентка. У 1858 у мястэчку 134 двары, 975 ж. У 1-ю сусв. вайну акупіраваны германскімі, у 1919—20 — польскімі войскамі З 1921 у складзе Польшчы З 1939 у БССР У 1940—57 цэнтр *Быценскага раена* У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1941 акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 10 7 1944 у ходзе *Беларускай аперацыі 1944* З 14.10.1957 і з 6.1 1965 у Івацэвіцкім р-не, з 25.12.1962 уваходзіла ў Бярозаўскі р-н. У 1970 было 699 двароў, 2292 ж У весцы працуюць участак Косаўскага камбіната будаўнічых матэрыялаў, камбінат бытавога абслугоўвання, сярэдняя і музычная школы, спец. дзіцячы інтэрнат, Дом культуры, б-ка, гандл. цэнтр, магазіны. Брацкая магіла сав воінаў, якія загінулі ў Вял. Айч вайну, помнік У. І. Леніну Захаваліся помнікі архітэктуры Успенская царква 17 ст і касцел 19 ст.

*М І Камінскі, В У Шаблюк*

**БЫ́ЧАК** Алег Сяргеевіч (18.9.1921, г Бабровіца, цяпер Чарнігаўскай вобл.— 7.5 1944), удзельнік партыз. руху на Беларусі ў Вял. Айч. вайну Герой Сав. Саюза (1944) Напярэдадні вайны быў рабочым. Скончыў Буйнакскае пях вучылішча (1941) У вер — ліст. 1941 пам камандзіра ўзвода атрада «Смерць фашызму», які выконваў спец. заданне ў акупіраваных Калінінскай, Смаленскай і Віцебскай абл З сак. 1942 камісар, з чэрв. 1943 камандзір партыз. атрада «Трэція» (з чэрв. 1943 атрад імя Дзяржынскага), які дзейнічаў на тэр. Вілейскай, Віцебскай, Мінскай абл. і Літ. ССР. За перыяд баявой дзейнасці байцы атрада пусцілі пад адхон 69 варожых эшалонаў, разбурылі больш за 4 км чыгунак, узарвалі 16 мастоў, 6 складоў, вывелі са строю электрастанцыю, знішчылі шмат фашыстаў. Загінуў пры выкананні баявога задання. Пахаваны ў г. Бабровіца. Яго імем названы вуліца ў Бабровіцы і Мядзеле.

**БЫЧКО́ВЫ,** браты, удзельнікі нарадавольскага руху 1870—80-х гадоў.

Я ў г е н І в а н а в і ч (1858, Горкі Магілёўскай губ.—?) Вучыўся ў Горным ін-це і Кіеўскім пях вучылішчы, арганізоўваў ваен. гурткі нарадавольцаў. 30.3 1881 арыштаваны і сасланы пад нагляд паліцыі ў Падольскую губ., адкуль падтрымліваў сувязь з ваеннай арг-цыяй *«Народнай волі»*. У студз. 1884 прыцягнуты да следства па справе забойства жандарскага падпалкоўніка Судзейкіна —фактычнага кіраўніка тайнага паліт. вышуку ў Расіі. Памер у Жытоміры.

У л а д з і м і р І в а н а в і ч (1861, Горкі Магілеўскай губ.— 18.8.1883). У рэв. рух уключыўся ў 1878 у Кіеўскім ун-це У 1879 арганізаваў тэрарыст. гурток, які прыняў праграму «Народнай волі» Вёў прапаганду сярод рабочых, вайскоўцаў, вучнёўскай моладзі, падрыхтаваў замах на жандарскага падпалкоўніка Судзейкіна. Арыштаваны 30.3.1881 і сасланы на 5 гадоў ва Усх. Сібір. 19.12. 1882 уцек з турмы, вёў рэв. дзейнасць, пасля арышту В. М. Фігнер узначальваў Харкаўскую групу нарадавольцаў. Улетку 1883 паехаў у Томск, каб наладзіць уцекі ссыльных. Выдадзены правакатарам, пры арышце супраціўляўся паліцыі і застрэліўся.

А С Бычак.

А л я к с а н д р І в а н а в і ч (1862, Кіеўская губ.— 27 9.1925). Дзеяч Кіеўскай групы нарадавольцаў. 30.3.1881 арыштаваны і сасланы на 3 гады ў Магілёўскую губ. пад нагляд паліцыі. У студз. 1881 прыгавораны ваен. судом да 10 гадоў катаржных работ і на пажыццёвае пасяленне ў Сібіры. 24.12.1887 уцёк з турмы і намагаўся аднавіць «Народную волю». У вер. 1888 зноў арыштаваны і зняволены ў Петрапаўлаўскую крэпасць. Удзельнік рэвалюцыі 1905—07. У 1918 чл. Харкаўскага Савета рабочых дэпутатаў. Працаваў у Гіспарце. *М В Біч*

**БЫЧКО́Ў** Апанас Федаравіч [15(27) 12. 1818, Фрыдрыхсгам, цяпер Хаміна (Фінляндыя) — 2(14).4.1899], рускі гісторык-славіст, археограф і бібліёграф. Акад. Пецярбургскай АН (1869; з 1866 экстраардынарны акадэмік). Старшыня Археаграфічнай камісіі (1891). Старшыня Аддзялення рус. мовы і славеснасці АН (1893). У 1840 скончыў Маскоўскі ун-т. Працаваў у Археал. камісіі АН. З 1844 хавальнік Аддзела рукапісаў і старадрукаваных кніг Публічнай б-кі ў Пецярбургу, у 1882—99 яе дырэктар. Пазней адначасова кіраваў Аддзяленнем рус. друкаваных кніг і перыёдыкі б-кі. Рыхтаваў навук. апісанні рукапісных і старадрукаваных кніг, выдаваў летапісы. У публікацыях пра старадаўнія помнікі рус. пісьменства закранаў адпаведныя бел. помнікі (Літоўскую метрыку, творы Ф. Скарыны, С. Буднага, В Цяпінскага, братоў Мамонічаў і інш.), з цэнтралісцка-расійскіх пазіцый падкрэсліваў значэнне кн. П М. *Бацюшкава* «Беларусь і Літва» (Спб., 1890). Рэдактар «Слоўніка беларускай мовы» І І. *Насовіча*, садзейнічаў выпуску яго ў свет. Асобныя пытанні гісторыі і культуры Беларусі закранаў у перапісцы з А. Брукнерам, П. П. Бацюшкавым, Я. Х. Галавацкім, М Грушэўскім, І. І. Грыгаровічам, М. Доўнар-Запольскім, І І Карнілавым, Я. Ф Карскім, Насовічам і інш. бел. і рус даследчыкамі. У асабістым архіве Б. захаваліся аўтографы некаторых прац Насовіча, у т. л. ненадрукаваных, прадмовы да яго «Слоўніка...» і лісты да Б.

*Літ* Библиографический список сочинений, переводов и изданий ординариого акад имп. Академии наук А Ф Бычкова // Сборник Отделения русского языка и словесности 1901. Т 68 *А К Каука*

**БЫЧКО́ЎСКІ** Адам (1889, фальварак Талочкі Саколкаўскага пав. Гродзенскай губ.— 18.11.1937), беларускі грамадскі і культурны дзеяч. Скончыў юрыд. ф-т Пецярбургскага ун-та. Працаваў суддзёй у Саколцы, потым меў адвакацкую практыку ў Варшаве. Адзін з заснавальнікаў *Гродзенскага гуртка беларускай моладзі*, заснавальнік «Асветнага таварыства беларусаў» у Варшаве (дзейнічала ў 1930-я гады). Аўтар сцэнічнага абразка «Сваты», які быў пастаўлены шэрагам самадзейных драм. гурткоў у Зах. Беларусі. *А С Ліс*

**БЫЧКО́ЎСКІ** Ціт (1799, Лагойск — 1843), беларускі жывапісец. З прыгонных графа Тышкевіча. Вучыўся ў Віленскім ун-це (да 1829, у Я. Рустэма), Дрэздэне, Мюнхенскай акадэміі мастацтваў (1836—42). Аўтар бытавых карцін з жыцця прыгонных сялян («Касец, што менціць касу», «Дзяўчынка з разбітым збанам», «Музыкант настройвае віяланчэль»), партрэта Ю. Славацкага (1831, музей А. Міцкевіча ў Варшаве) і інш.

**БЫЧЫ́ХІНСКІ БОЙ 1942,** адбыўся ў Вял. Айч. вайну паміж зводным атрадам 2-й Беларускай імя П. К. Панамарэнкі партыз. брыгады і ням.-фаш. гарнізонам на ст. Бычыха Мехаўскага р-на. У ноч на 15.7.1942 партызаны ў складзе 220 чал. з боем прарвалі драцяныя загароды, уварваліся ў акопы і апорныя пункты ворага, акружылі і разграмілі фаш. гарнізон на станцыі і тэр. былой МТС. У час бою спалены склады з гаручым, знішчаны 4 вагоны, 9 аўтамашын, падарваны 2 чыг масты, разбурана чыг. палатно, пашкоджана сувязь, захоплены зброя, боепрыпасы, амуніцыя. Чыгунка Віцебск — Невель была выведзена са строю больш як на суткі. У гонар баявых дзеянняў партызан на будынку станцыі ўстаноўлена мемарыяльная дошка *Р А Чарнаглазава*

**БЭ́НДЭ** Лукаш Апанасавіч (літ. псеўд. Л А п а н а с о в і ч, Базыль Л у к а ш э в і ч, В. Н э д б э, Э. Н э у б а, В Н. Л. Б.; 1.11.1903, в. Шчакоцк Кобрынскага пав., цяпер Іванаўскі р-н — 23.12. 1961), беларускі крытык, публіцыст і літаратуразнавец вульгарна-сацыялагічнага кірунку. Скончыў Камуністычны ун-т Беларусі імя Леніна (1926), аспірантуру АН БССР (1930). Працаваў у Віцебскім ветэрынарным ін-це, выкладчыкам Аб'яднанай бел. вайсковай школы, служыў у арміі. Быў адказным сакрата-

ром час. «Камуністычнае выхаванне», рэдактарам час. «Напагатове», заг. аддзела і нам. дырэктара Дзярж. выд-ва БССР. З 1934 мастацкі кіраўнік і нам. дырэктара кінафабрыкі Белдзяржкіно ў Ленінградзе, выкладчык Ленінградскага тэатр. ін-та. З 1935 навук. супрацоўнік Ін-та рус. л-ры (Пушкінскі дом), заг. кафедры Ленінградскага абл. настаўніцкага ін-та. У час Вял. Айч. вайны служыў у войсках НКУС (Ленінград). З 1946 выкладчык у пед. і настаўніцкіх ін-тах Ленінграда, Даўгаўпілса, Выбарга, Жытоміра. Паводле свайго светапогляду Б.— тыповы прадстаўнік левага камунізму. Адмаўляў гістарычную і культурную самабытнасць народаў, іх нац. цэласнасць. Прапаведаваў бальшавіцкі ідэал безнацыянальнага пралетарскага інтэрнацыяналізму. Ідэалізаваў бядняцкія слаі сялянства, выступаў апалагетам люмпенпралетарскай дэкласаванай часткі насельніцтва, якой проціпастаўляў усе іншыя класы і сацыяльныя групы — памешчыкаў, буйную буржуазію, інтэлігенцыю, сялян-заможнікаў і серадняКоў. У артыкулах, нарысах і рэцэнзіях не прызнаваў бел. дзяржаўнасці да Кастр. рэвалюцыі, бел. нац.-вызв. рух ацэньваў як выключна буржуазна-*шляхецкі*, варожы працоўным класам грамадства. З вульгарызатарскіх і нігілістычных пазіцый разглядаў гісторыю бел. л-ры і нац. культуры. Імкнуўся палітычна дыскрэдытаваць творчасць **Я. Купалы**, **Я. Коласа**, **М. Багдановіча**, **А. Гаруна**, **З. Бядулі**, **М. Гарэцкага** і інш. пісьменнікаў і асветнікаў, літ. аб'яднанні «Узвышша», ранні «Маладняк», «Полымя». Асабліву варожасць выявіў да газ. «Наша ніва» і «нашаніўскіх» пісьменнікаў. Выступаў паслядоўнікам сацыялагічнага метаду Г Пляханава і У. Фрычэ, аднак спрашчаў іх канцэпцыю сац.-эканамічнай абумоўленасці мастацкіх метадаў, стыляў і плыняў, адмаўляў спецыфіку мастацкага пазнання, бачыў у мастацкіх вобразах ілюстрацыю класавай «псіхаідэялогіі» і паліт. поглядаў. Разам з тым Б. раскрыўся як тыповы ідэолаг-прыстасаванец, які мяняў свае погляды ў адпаведнасці з чарговымі паваротамі афіц. палітыкі. У арт. «Творчы шлях Янкі Купалы» (1935) пад прыкрыццем самакрытыкі, прызнання ідэалагічных памылак свайго нарыса «Шлях паэта» (1930) ён фактычна надрукаваў даносы на бел. творчую інтэлігенцыю. У 1940—50-я гады спрабаваў «перабудавацца», падрыхтаваўшы шэраг нарысаў пра вуснапаэтычныя традыцыі ў бел. л-ры, творчасць Купалы, Коласа, Цёткі, М. Чарота, П. Броўкі. Рукапісы Б. зберагаюцца ў ЦДАМЛіМ Рэспублікі Беларусь.

*Тв.* Да пытання аб задачах сучаснай літаратуры // Сав Беларусь 1929 14 крас; Некаторыя праблемы пралетарскай літаратуры // Там жа. 1929 3 ліст, Пашахонская пагулянка па беларускай літаратуры // Маладняк 1929 № 2, Шлях паэта // Там жа 1930. № 6—7, Пра нядаўняе мінулае беларускай контррэвалюцыі // Там жа 1931 № 1, Матэрыялы да нарысаў па гісторыі беларускай літаратуры // Там жа 1931 № 5, Янка Купала Крытыч нарыс Мн., 1932

*Літ* Кісялёў Г В «Паслухайце, браткі, Навума старога! .» // Свитязь=Свіцязь Альманах библиофилов Белоруссии Мн, 1989, Сачанка Б Бэндэ (30-я ў абліччах і дакументах) // Сачанка Б Сняцца сны аб Беларусі Літ-крытыч арт, інтэрв'ю Мн, 1990 *У М Конан*

**БЭРД** (Bird) Томас (н. 28.3.1935, г. Ром, штат Нью-Йорк, ЗША), амерыканскі славіст, беларусіст. Віцэ-прэзідэнт Міжнар. асацыяцыі беларусістаў Скончыў Прынстанскі ун-т. Праф. аддзялення славянскіх і германскіх моў Нью-Йоркскага гар. ун-та. Чытае лекцыі па бел. філалогіі. Аўтар прац па славістыцы, гісторыі бел л-ры пач 20 ст (тэма «Наша ніва» і яе аўтары»). Арганізуе ў Нью-Йорку канферэнцыі, вечары і выстаўкі, прысвечаныя бел. культуры. Наведваў Беларусь. *А В Белавусава*

**БЮДЖЭ́Т ДЗЯРЖА́ЎНЫ**, план утварэння і выкарыстання цэнтралізаванага фонду дзярж. грашовых рэсурсаў, прызначаных для фінансавання эканам. і сацыяльных праграм утрымання органаў дзярж. улады і кіравання; каштарыс (роспіс) дзярж. даходаў і расходаў, праз які ажыццяўляецца пераразмеркаванне пэўнай часткі нац. даходу паміж вытв. і невытворчай сферамі і ўнутры іх, паміж абласцямі і раенамі. Штогод Б. дз. БССР распрацоўваўся Саветам Міністраў БССР на аснове цэнтралізаваных дзярж. планаў эканам. і сацыяльнага развіцця СССР і БССР, зацвярджаўся ў заканад. парадку Вярх. Саветам БССР. Складаўся з рэспубліканскага і мясц. бюджэтаў. Структура і аб'ём яго значна мяняліся на працягу гіст. развіцця Беларусі ў залежнасці ад стану эканомікі, характару эканам. і сацыяльнай палітыкі, тэрытарыяльных змен.

Першая спроба фарміравання Б. дз. ажыццеўлена ў 1921 пасля заканчэння сав.-польскай вайны 1920, калі БССР змагла прыступіць да аднаўлення разбуранай гаспадаркі і будаўніцтва эканомікі. Дагавор аб фінансавай палітыцы, заключаны паміж БССР і РСФСР, прадугледжваў адзінства фінансавай сістэмы абедзвюх рэспублік (прынцып адзінства канчаткова зацверджаны з утварэннем СССР). Спланаваць дзярж. бюджэт 1921 і 1922 не ўдалося з-за інфляцыі і высокага ўзроўню натуральнага абмену У 1921 бюджэт быў выкананы з велізарным дэфіцытам, 92 % расходаў пакрыты за кошт уводу ў абарачэнне дадатковай масы грашовых знакаў, атрыманых з цэнтра. У 1922 такім жа чынам пакрыта 26,4 % расходнай часткі бюджэту. *Новая эканамічная палітыка* і грашовая рэформа забяспечылі нармальны працэс бюджэтаўтварэння і бездэфіцытны бюджэт Сфарміравалася сістэма мясц. бюджэтаў. Яны лічыліся самастойнымі, але на справе не мелі дастатковай фінансавай базы і падтрымліваліся за кошт даходнай часткі рэсп. бюджэту. Канстытуцыя БССР 1937 заканадаўча замацавала зліццё мясц. бюджэтаў у адзіную сістэму. Статыстыка разглядае дзярж. бюджэт як сукупнасць рэспубліканскага і мясц. бюджэтаў. За 1923—27 дзярж. бюджэт павялічыўся ў 5,9 раза, за 1928—38 — у 14,4 раза (апошні паказчык штучна завышаны ў выніку падзення пакупніцкай здольнасці рубля). У 1930 для ліквідацыі супярэчнасцей паміж сістэмай фарміравання даходнай часткі бюджэту і новымі эканам. адносінамі праведзена падатковая рэформа Асн крыніцамі даходаў сталі плацяжы дзярж. прадпрыемстваў і гасп. арг-цый — падатак з абароту і адлічэнні ад прыбытку. У 1938 іх доля ў агульнай суме даходаў бюджэту склала 75 % (разам з лясным даходам і плацяжамі інш. абагульненых гаспадарак 81,7 %), дзярж. і мясцовыя падаткі з насельніцтва — 6,7 %. Мяняліся і суадносіны расходаў. У 1923—24 на фінансаванне нар. гаспадаркі накіравана 15,8 %, у 1929—30 — 46,3, 1938 — 19,6 %, на сацыяльна-культ. мерапрыемствы — адпаведна 39,9, 40,7, 69,1 %, на кіраванне — 44,3, 8,6, 9,4 %. У 1940, пасля ўз'яднання Зах. Беларусі з БССР, расходы бюджэту ў параўнанні з 1938 выраслі больш чым у 1,9 раза. У Вял. Айч. вайну ўсе расходы бел. ўрада ўзяў на сябе саюзны ўрад. За кошт саюзнага бюджэту ажыццяўляліся ўсе расходы на вызваленай у 1943 тэр. БССР. Пры зацвярджэнні дзярж. бюджэту СССР на 1944 і 1945 для БССР была прадугледжана датацыя ў 327 і 1200 млн. руб. (фактычна затрачана 491 і 622 млн. руб.). Да сярэдзіны 1950-х гадоў усе мерапрыемствы саюзнага значэння фінансаваліся непасрэдна з саюзнага бюджэту. Паслядоўная перадача рэспубліцы аб'ектаў саюзнага падпарадкавання суправаджалася адпаведным павелічэннем дзярж. бюджэту.

З 1990 выпрацоўваецца новая метадалогія фарміравання і выканання бюджэта. Прыняты законы аб мясц. самакіраванні і мясц гаспадарцы (1991), аб бюджэтнай сістэме (1993), пакет законаў аб падаткаабкладанні (1991—93) і інш. Функцыі дзярж. улады і кіравання ўсіх узроўняў бюджэтнай падатковай палітыкі дакладна размяжоўваюцца. Вярх. Савет Рэспублікі Беларусь зацвярджае рэсп. бюджэт, нарматывы адлічэнняў ад агульнарэсп. падаткаў і даходаў у мясц. бюджэты абласцей і г. Мінска. Саветы набываюць поўную самастойнасць у пытаннях распрацоўкі, зацвярджэння і выканання сваіх бюджэтаў. За мясц бюджэтамі замацоўваюцца мясц. падаткі і зборы. Устанаўліваюцца правы мясц. Саветаў у атрыманні часткі даходаў ад агульнарэсп. падаткаў (на дабаўленую вартасць, акцызны падатак), якія збіраюцца на іх тэрыторыях Размяжоўваюцца выдаткі і мерапрыемствы, фінансаванне якіх ажыццяўляецца з рэсп. і мясц. бюджэтаў. За рэсп. бюджэтам цалкам пакінута фінансаванне абароны, мерапрыемстваў па ліквідацыі вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, утрымання рэсп органаў дзярж. улады і кіравання, органаў дзярж. бяспекі, устаноў і аб'ектаў рэсп. падпарадкавання. Звод рэсп і мясцовых бюджэтаў утварае дзярж. (кансалідаваны) бюджэт *З І Гіяргідзе, І І. Заяц*

**«БЮЛЕТЭ́НЬ ГАЗЕ́ТЫ «ПАРТЫЗА́Н БЕЛАРУ́СІ»,** орган *Мінскага падпольнага абкома КП(б)Б* у Вял. Айч. вайну. Вядома 8 нумароў за люты — май 1943 на бел. мове.

**«БЮЛЕТЭ́НЬ ПАСО́ЛЬСКАГА КЛУ́БА БЕЛАРУ́СКАЙ СЯЛЯНСКА-РАБО́ТНІЦКАЙ ГРАМАДЫ́»,** орган левага крыла бел. парламенцкай фракцыі ў сейме Польшчы. Выдаваўся з 11.7.1925 да 4.12.1926 у Вільні на бел. мове. Друкаваў прамовы грамадаўскіх дэпутатаў у сейме, іх *інтэрпеляцыі*, звароты да польскага ўрада і кіраўнікоў міністэрстваў. У інтэрпеляцыях (у 1927 выйшлі ў Мінску асобным выданнем на бел. і рус. мовах) і інш. дакументах выкрываліся факты грубага парушэння мясц. польскай адміністрацыяй канстытуцыі дзяржавы і падпісаных *Польшчай* міжнар. трактатаў, беспадстаўныя арышты і збіванне палітзняволеных, марадзёрства дыслацыраваных у Зах. Беларусі польскіх войск, абкладанне сялян непамернымі падаткамі, рэпрэсіі супраць бел. перыядычнага друку, самачыннае закрыццё старастамі бел. школ, праследаванне настаўнікаў і г. д. На старонках «Бюлетэня...» надрукаваны «Палітычная платформа Беларускай сялянска-работніцкай грамады» (№ 9), «Арганізацыйны статут БСРГ» (№ 12), выступленні ў сейме П. Мятлы, С. Рак-Міхайлоўскага, Б. Тарашкевіча, П. Валошына, Ю. Сабалеўскага і інш. Вядома 16 нумароў, з іх 3 канфіскаваны. Выданню папярэднічаў «Бюлетэнь Беларускага пасольскага клуба» (1925, выйшла 3 нумары). *А. С. Ліс.*

**«БЮЛЕТЭ́НЬ ЦК КПЗБ»,** нелегальная камуніст. газета, орган ЦК КПЗБ для ўнутрыпарт. інфармацыі. Выдавалася з 20.1.1927 да 1936 у Вільні на бел., рус., яўр. і польскай мовах звычайна 1 раз у месяц. Тыраж да 5 тыс. экз. Друкавала найб. важныя пастановы і рашэнні ЦК КПЗБ, інструктыўныя матэрыялы па пытаннях агітацыі, прапаганды і парт. будаўніцтва, тэзісы для дакладаў на сходах парт. ячэек, асвятляла дзейнасць ЦК, яго аддзелаў і мясцовых парт. арг-цый. Рэдагавалі газету чл. Бюро ЦК КПЗБ А. А. *Альшэўскі*, Л. І. *Родзевіч* і інш. *І. П. Хаўратовіч.*

**«БЮЛЛЕТЕ́НЬ БЕЛОРУ́ССКОЙ РА́ДЫ XII А́РМИИ».** Вядомы № 1 ад 18.12. 1917, які выйшаў у г. Валк (Ліфляндская губ.) на рус. мове пад лозунгам «Хай жыве Вольная Беларусь у Расійскай Дэмакратычнай Федэратыўнай Рэспубліцы!». Надрукаваў адозву да беларусаў-вайскоўцаў, вытрымку з пратакола тэрміновага пасяджэння Бел. рады 12-й арміі, тэлеграму да камісараў па нац. і вайсковых справах, інфармацыю пра з'езд воінаў-беларусаў Паўн. фронту (ліст. 1917. Віцебск), фарміраванне бел. вайсковых адзінак, выданне ў Мінску газет «Вольная Беларусь», «Белорусская Рада», пра бела-чырвона-белую стужку ў пятліцы як нац. адзнаку бел. вайсковых часцей. Адказны за выпуск В. Запрэйка. *М. В. Нікалаеў.*

**«БЮЛЛЕТЕ́НЬ ВОЕ́ННО-РЕВОЛЮЦИО́ННОГО КОМИТЕ́ТА ЗА́ПАДНОГО ФРО́НТА»,** штодзённая газета бальшавіцкага кірунку. Выдавалася з 27.10 (9.11) да канца ліст. 1917 у Мінску на рус. мове *Ваенна-рэвалюцыйным камітэтам Заходняга фронту*. Выхад газеты быў абумоўлены спробай мясц. бальшавіцкіх кіраўнікоў увасобіць у ВРК вышэйшую ўладу на Зах. фронце пасля перамогі ўзбр. паўстання ў Петраградзе. У гэтых умовах ёй надаваліся функцыі афіц. органа друку. У газеце падкрэслівалася, што «ўсе распараджэнні Ваенна-рэвалюцыйнага камітэта публікуюцца ў «Бюллетене...» і падлягаюць неадкладнаму і беспярэчнаму выкананню». Акрамя загадаў ВРК, у першых нумарах (27 і 28 кастр.) надрукаваны дэкрэты II Усерас. з'езда Саветаў рабочых і салдацкіх дэпутатаў, Дэкларацыя правоў народаў Расіі (6 ліст.), Дэкрэт аб увядзенні дзярж. манаполіі на аб'явы (11 ліст.) і інш. дакументы. Пісала пра ход барацьбы за ўладу з к-тамі выратавання рэвалюцыі (7 ліст.), антыбальшавіцкай прэсай (9 ліст.), супраць чутак, якія дыскрэдытавалі кастрычніцкія падзеі (8 ліст.). Шырока асвятляла падрыхтоўчую работу па скліканні Устаноўчага сходу ў Расіі, друкавала наказы вайсковых часцей сваім дэлегатам. Шмат увагі аддавала канфлікту паміж СНК РСФСР і Вярх. галоўнакамандуючым ген.-л. М. М. Духоніным. У арт. «Генерал Духонін і Савет Народных Камісараў» (11 ліст.) галоўнакамандуючы паказаны прыхільнікам вайны і контррэвалюцыянерам, якога трэба адхіліць ад займаемай пасады. Засяроджвала ўвагу салдат на неабходнасці барацьбы з рэакц. генералітэтам у Стаўцы Вярх. галоўнакамандуючага (12, 15 ліст. і інш.), змясціла звароты «Да ўсіх таварышаў Заходняга фронту» і «Да ўсіх афіцэраў армій Заходняга фронту» (15 ліст.) з мэтай атрымаць маральную і практычную падтрымку ў барацьбе супраць Стаўкі. Апублікавала звесткі пра вынікі гэтай барацьбы, загады новага галоўнакамандуючага, адозвы Магілёўскага ВРК (22 ліст.). *М. Я. Сяменчык.*

**«БЮЛЛЕТЕ́НЬ МИ́НСКОГО СОВЕ́ТА РАБО́ЧИХ И СОЛДА́ТСКИХ ДЕПУТА́ТОВ»,** штодзённая бальшавіцкая газета. Выдавалася 27—31.10(9—13.11). 1917 у Мінску на рус. мове. Выданне «Бюллетеня...» было распачата бальшавіцкай фракцыяй Мінскага Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў з мэтай падтрымаць падзеі Кастр. рэвалюцыі ў Петраградзе з боку салдат Зах. фронту і працоўных Беларусі, што выявілася ў 1-м нумары газеты. 27 кастр. ў ёй быў змешчаны «Загад № 1. Да насельніцтва гор. Мінска і ваколіц», у якім бальшавіцкая фракцыя ад імя выканкома Мінскага Савета абвясціла пераход улады ў рукі Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў. Выкарыстоўваючы «Бюллетень...» як надпартыйны орган, бальшавікі праводзілі праз яго сваю палітыку. Тут друкаваліся загады і тэлеграмы Петраградскага ВРК, паведамленні пра II Усерас. з'езд Саветаў, дэкрэты аб міры, зямлі, друку, прывітальныя тэлеграмы вайскоўцаў на адрас Савета Нар. Камісараў і інш. На час пераходу ўлады да *«Камітэта выратавання Радзімы і рэвалюцыі»* газета не падпарадкавалася загадам апошняга і распачала супраць яго ідэйна-паліт. барацьбу. Спыніла існаванне ў сувязі з канчатковай перамогай бальшавікоў у Мінску. *М. Я. Сяменчык.*

**«БЮЛЛЕТЕ́НЬ «СЯЛЯ́НСКАЙ ГАЗЕ́ТЫ»,** орган *Вілейскага падпольнага абкома КП(б)Б* у Вял. Айч. вайну. Выдаваўся ў паўн. раёнах вобласці, куды дастаўка «Сялянскай газеты» была ўскладнена. Вядома 29 нумароў за 6.1—28.9. 1943 на рус. мове (асобныя нумары на бел. і рус. мовах). Рэдактар П. М. *Альшанскі.*

**БЮРО́ ДАПАМО́ГІ КАМПАРТЫ́І ЗАХО́ДНЯЙ БЕЛАРУ́СІ** пры ЦК КП(б)Б. Дзейнічала з ліп. 1924 да 21.2.1925 у Мінску. Створана пры садзейнічанні прадстаўніцтва ЦК КПРП пры Выканкоме Камінтэрна з мэтай арганізацыі дапамогі КПЗБ. Мела таксама назву «закардоннае бюро». У розны час у Бюро дапамогі ўваходзілі Я. А. Адамовіч, А. А. Асаткін-Уладзімірскі, У. М. Ігнатоўскі (да кастр. 1924 кіраваў тэхн. работай і арганізоўваў выкананне рашэнняў), А. І. Крыніцкі, І. К. Лагіновіч (П. Корчык), А. С. Славінскі (агульнае кіраўніцтва), А. Р. Чарвякоў. Вяло перапіску па пытаннях паліт. і арганізац. характару з ЦК КПЗБ, які знаходзіўся ў падполлі, аказвала яму дапамогу ў выданні падп. л-ры, рабоце друкарняў, фінансавала яго культ.-асв. дзейнасць, рыхтавала кадры для падп. парт. работы ў Зах. Беларусі і інш. Да ліст. 1924 правяло 8 пасяджэнняў, на якіх разгледжана каля 40 арганізац., кадравых, паліт. і тэхн. пытанняў. У сувязі з утварэннем у ЦК КПЗБ у ліст. 1924 фракцыйнай групы (гл. *Сэцэсія*) інтэнсіўнасць работы Бюро дапамогі значна павялічылася. Дзейнасць Бюро спынена як вычарпаўшага свае функцыі рашэннем Бюро ЦК КП(б)Б. *У. Ф. Ладысеў.*

**БЮРО́ ПА НЕЛЕГА́ЛЬНАЙ РАБО́ЦЕ** пры ЦК КП(б)ЛіБ, орган аператыўнага кіраўніцтва камуніст. падполлем на акупіраванай войскамі Польшчы тэр. Літ.-Бел. ССР. Дзейнічала з 3.9.1919 да вер. 1920. Старшыня В. С. *Міцкявічус-Капсукас*, чл. В. Г. *Кнорын*, В. А. *Багуцкі*, З. І. *Ангарэціс*. Кіравалася дырэктывамі ЦК РКП(б), ЦК КП(б)ЛіБ, у пытаннях, якія датычыліся Польшчы,— дырэктывамі Цэнтр. Выканаўчага Бюро Камуніст. рабочай партыі Польшчы. Пад кіраўніцтвам Бюро дзейнічалі падпольныя парт. арг-цыі і партыз. атрады. Бюро накіроўвала на акупіраваную тэрыторыю арганізатараў камуніст. падполля і партыз. руху, паліт. л-ру: творы У. І. Леніна, лістоўкі, адозвы, парт. газеты на бел., рус., польскай і літ. мовах [«Правда», «Звезда», «Савецкая Беларусь», «Młot» («Молат»), «Komunista» («Камуніст»),

«Komunistas» («Камуніст»)]. У Крупках, Мазыры, Полацку, Рагачове, Рэжыцы створаны транспарціровачныя пункты, у Бабруйску і Дзвінску — нелегальныя склады. З Дзвінска і Рэжыцы л-ра ішла ў тарыбскую Літву, з Полацка — у Вільню, з Рагачова — у Бабруйск і Мінск, з Крупак — у Барысаў, Вільню, Ігумен, Мінск, з Мазыра — у Брэст, Гродна, Мінск, Слуцк. *Я. Н. Шкляр.*

**БЮРО ЦК КПБ,** кіруючы орган Камуністычнай партыі Беларусі ў 1924—1991. Выбіраўся пленумам *Цэнтральнага камітэта КПБ* для кіраўніцтва парт. і паліт. работай на Беларусі паміж пленумамі ЦК. Упершыню створана на арганіз. пленуме пасля VIII з'езда КП(б)Б (12—14.5.1924). Да VIII з'езда кіруючымі органамі Кампартыі Беларусі былі: *Цэнтральнае Бюро КП(б)Б* і яго Прэзідыум (31.12.1918—4.3.1919); *Цэнтральны Камітэт КП(б) Літвы і Беларусі* і яго Прэзідыум, Аргбюро, Палітбюро і *Бюро па нелегальнай рабоце* (4.3.1919—вер. 1920); *Цэнтральнае Бюро КП(б)Б*, яго Сакратарыят і Прэзідыум (вер. 1920—8.2.1924); *Часовае Беларускае Бюро ЦК РКП(б)* і яго Прэзідыум (8.2—12.5.1924). Бюро ЦК КП(б)Б, створанае пасля VIII з'езда, існавала як кіруючы орган да 1962. На аснове рашэння ліст. Пленума ЦК КПСС (1962) пленум ЦК КПБ 18.12.1962 замест Бюро ЦК КПБ стварыў *Прэзідыум ЦК КПБ* і 2 галіновыя Бюро: Бюро ЦК КПБ для кіраўніцтва сельскай гаспадаркай і Бюро ЦК КПБ для кіраўніцтва прамысловасцю і будаўніцтвам. На аснове рашэння ліст. Пленума ЦК КПСС (1964) пленум ЦК КПБ 24.11.1964 скасаваў галіновыя Бюро. Пленум ЦК КПБ 24—25.6.1966 перайменаваў Прэзідыум ЦК КПБ у Бюро ЦК КПБ.

Бюро **ЦК КП(б)Б паміж VIII—IX з'ездамі КП(б)Б** [15.5.1924—8.12.1925 (тут і далей першая дата азначае, калі адбыўся арганіз. пленум ЦК, на якім выбрана Бюро)]. На пленуме ЦК КП(б)Б 15.5.1924 чл. Бюро выбраны: Я. А. Адамовіч, А. М. Асаткін-Уладзімірскі [сакратар і чл. Бюро ЦК КП(б)Б да 29.9. 1924], В. У. Дзякаў, П. Д. Мядзведзь, В. П. Трунтаеў, Ш. Ш. Ходаш, А. Р. Чарвякоў. Пленум ЦК КП(б)Б 6—9.7.1924 выбраў канд. ў чл. Бюро А. Я. Калніна, Я. А. Левіна, І. І. Матусевіча. Пленум ЦК КП(б)Б 27—29.9.1924 выбраў чл. Бюро і сакратаром ЦК КП(б)Б А. І. Крыніцкага. Пленум ЦК КП(б)Б 11—14.11.1924 выбраў чл. Бюро У. М. Ігнатоўскага. Пленум ЦК КП(б)Б 2—8.5. 1925 пастанавіў павялічыць колькасць чл. Бюро да 9 чал., дадаткова чл. Бюро выбраны С. М. Гесен, М. Е. Ендакоў.

**Бюро ЦК КП(б)Б паміж IX—X** з'ездамі КП(б)Б (12.12.1925—3.1.1927). На пленуме ЦК КП(б)Б 12.12.1925 чл. Бюро выбраны Я. А. Адамовіч, П. А. Барушка, М. М. Галадзед [2-і сакратар ЦК КП(б)Б], С. М. Гесен (да 27.7.1926), М. Е. Ендакоў, У. М. Ігнатоўскі, А. Я. Калнін, М. М. Карклін, А. І. Крыніцкі [1-ы сакратар ЦК КП(б)Б], Р. А. Піляр, А. Р. Чарвякоў; канд. ў чл. Бюро: А. Р. Бейлін, У. А. Валынскі, Р. Э. Кавалерс (да 9.10.1926), Г. К. Румянцаў (да 9.10.1926). Пленум ЦК КП(б)Б 27—29.4.1926 пастанавіў павялічыць колькасць чл. Бюро да 13, пакінуць канд. ў чл. Бюро 3 чал., дадаткова чл. Бюро выбраны А. Р. Бейлін, У. А. Валынскі, канд. у чл. Бюро А. С. Славінскі. На пленуме ЦК КП(б)Б 22—27.7.1926 чл. Бюро выбраны М. П. Абрамчук. На пленуме ЦК КП(б)Б 5—9.10.1926 канд. ў чл. Бюро выбраны М. А. Акулік, М. Ф. Муратава.

**Бюро ЦК КП(б)Б паміж X—XI з'ездамі КП(б)Б** (10.1.1927—22.11.1927). На пленуме ЦК КП(б)Б 10.1.1927 чл. Бюро выбраны: М. П. Абрамчук, Я. А. Адамовіч (да 5.5.1927), П. А. Барушка, А. Р. Бейлін, М. М. Галадзед [2-і сакратар ЦК КП(б)Б да 5.5.1927], Н. Г. Гурэвіч, У. М. Ігнатоўскі, М. М. Карклін, А. І. Крыніцкі [1-ы сакратар і чл. Бюро ЦК КП(б)Б да 5.5.1927], І. М. Перапечка, Р. А. Піляр, І. П. Рыжоў, А. Р. Чарвякоў; канд. ў чл. Бюро: М. А. Акулік, В. Р. Гантман, А. І. Іваноў, М. Ф. Муратава, А. С. Славінскі, К. Х. Супрун. На пленуме ЦК КП(б)Б 1—5.3.1927 канд. у чл. Бюро выбраны М. С. Малашонак. На пленуме ЦК КП(б)Б 4—5.5.1927 чл. Бюро і 1-м сакратаром ЦК КП(б)Б выбраны В. Г. Кнорын. На пленуме ЦК КП(б)Б 26—30.9.1927 чл. Бюро і 2-м сакратаром ЦК КП(б)Б выбраны І. А. Васілевіч.

**Бюро ЦК КП(б)Б паміж XI—XII з'ездамі КП(б)Б** (29.11.1927—5.2. 1929). На пленуме ЦК КП(б)Б 29.11. 1927 чл. Бюро выбраны: М. П. Абрамчук (да 11.9.1928), П. А. Барушка, А. Р. Бейлін, І. А. Васілевіч (2-і сакратар ЦК), М. М. Галадзед, Н. Г. Гурэвіч (да 11.9. 1928), У. М. Ігнатоўскі, М. М. Карклін, В. Г. Кнорын [1-ы сакратар і чл. Бюро ЦК КП(б)Б да 10.10.1928], І. М. Перапечка (да 11.9.1928), Р. А. Піляр, І. П. Рыжоў, А. Р. Чарвякоў; канд. . чл. Бюро: М. А. Акулік (да 11.9.1928), В. Р. Гантман, І. А. Іваноў, М. М. Ланда (да 11.9.1928), М. С. Малашонак, А. С. Славінскі. На пленуме ЦК КП(б)Б 8—11.9.1928 чл. Бюро выбраны: В. Р. Гантман, А. С. Славінскі, Б. І. Стасевіч; канд. ў чл. Бюро: С. Б. Карп, А. П. Крохмаль, П. Д. Малаковіч, Дз. Ф. Прышчэпаў, А. А. Сянкевіч. На пленуме ЦК КП(б)Б 28.11—1.12. 1928 чл. Бюро і 1-м сакратаром ЦК выбраны Я. Б. Гамарнік.

**Бюро ЦК КП(б)Б паміж XII—XIII з'ездамі КП(б)Б** (16.2.1929—30.5.1930). На пленуме ЦК КП(б)Б 16.2.1929 чл. Бюро выбраны: А. Р. Бейлін (да 8.1. 1930), І. А. Васілевіч (2-і сакратар ЦК), М. М. Галадзед, Я. Б. Гамарнік [1-ы сакратар і чл. Бюро ЦК КП(б)Б да 5.11. 1929], В. Р. Гантман, У. М. Ігнатоўскі, М. М. Карклін (да 8.1.1930), Р. А. Піляр (да 8.1.1930), І. П. Рыжоў, І. Г. Самойлаў, А. С. Славінскі, Б. І. Стасевіч (да 8.9.1929), А. Р. Чарвякоў; канд. ў чл. Бюро: Л. Н. Аранштам (да 8.1.1930), І. А. Іваноў, С. М. Кажэўнікаў (да 8.1. 1930), С. Б. Карп, П. Д. Малаковіч, А. А. Сянкевіч, А. І. Хацкевіч. На пленуме ЦК КП(б)Б 5—8.9.1929 чл. Бюро выбраны: Р. П. Грысевіч, С. М. Кажэўнікаў; канд. у чл. Бюро М. П. Рачыцкі. На пленуме ЦК КП(б)Б 3—8.1.1930 чл. Бюро і 1-м сакратаром ЦК выбраны К. В. Гей, чл. Бюро — Л. Н. Аранштам, К. Ф. Бенек, каптаваны ў чл. ЦК КП(б)Б і выбраны чл. Бюро Р. Я. Рапапорт. На пленуме ЦК КП(б)Б 27—30.3. 1930 канд. у чл. Бюро выбраны Р. І. Хлеўнікаў.

**Бюро ЦК КП(б)Б паміж XIII—XIV з'ездамі КП(б)Б** (12.6.1930—23.1.1932). На пленуме ЦК КП(б)Б 12.6.1930 чл. Бюро выбраны: Л. Н. Аранштам, К. Ф. Бенек, І. А. Васілевіч [2-і сакратар і чл. Бюро ЦК КП(б)Б да 25.10.1930], С. М. Варонічаў, М. М. Галадзед, В. Р. Гантман, К. В. Гей [1-ы сакратар ЦК КП(б)Б], Р. П. Грысевіч, У. М. Ігнатоўскі (да 25.10.1930), Р. Я. Рапапорт, П. М. Рачыцкі, І. П. Рыжоў, А. С. Славінскі, А. А. Сянкевіч (да 26.1.1931), А. Р. Чарвякоў; канд. ў чл. Бюро: С. Р. Міцькоў, А. І. Хацкевіч, Р. І. Хлеўнікаў, Г. Я. Чычэраў. На пленуме ЦК КП(б)Б 20—25.10.1930 чл. Бюро выбраны С. І. Будзінскі, Р. І. Хлеўнікаў, чл. Бюро і 2-м сакратаром ЦК КП(б)Б — В. Ф. Шарангovіч. На пленуме ЦК КП(б)Б 20—26.1.1931 чл. Бюро выбраны З. З. Кавальчук, А. А. Чарнушэвіч. На пленуме ЦК КП(б)Б 10—12.4.1931 чл. Бюро выбраны С. Ф. Рэдзенс. На аб'яднаным пленуме ЦК і ЦКК КП(б)Б 12—16.11.1931 чл. Бюро выбраны Г. П. Матсон, І. П. Убарэвіч.

**Бюро ЦК КП(б)Б паміж XIV—XV з'ездамі КП(б)Б** (29.1.1932—16.1.1934). На пленуме ЦК КП(б)Б 29.1.1932 чл. Бюро выбраны: Л. Н. Аранштам (да 6.12.1933), К. Ф. Бенек, М. М. Галадзед, В. Р. Гантман (да 5.7.1932), М. Ф. Гікала [1-ы сакратар ЦК КП(б)Б, Р. П. Грысевіч, І. А. Іваноў [сакратар ЦК КП(б)Б па транспарце і чл. Бюро да 6.12.1933], З. З. Кавальчук, Г. П. Матсон (да 5.7. 1932), П. М. Рачыцкі (да 23.7. 1933), І. П. Рыжоў (да 5.7.1932), А. Б. Рыскін [сакратар ЦК КП(б)Б па забеспячэнні], І. П. Убарэвіч, Р. І. Хлеўнікаў (да 5.12. 1932), А. Р. Чарвякоў, А. А. Чарнушэвіч, В. Ф. Шарангovіч (2-і сакратар ЦК); канд. ў чл. Бюро: С. Р. Міцькоў (да 5.12.1932), А. С. Судакоў (да 23.7.1933), А. І. Хацкевіч. На Аб'яднаным пленуме ЦК і ЦКК КП(б)Б 26—28.3.1932 чл. Бюро і сакратаром ЦК выбраны В. Ю. Жаброўскі. На аб'яднаным пленуме ЦК і ЦКК КП(б)Б 2—5.7.1932 чл. Бюро выбраны Л. М. Закоўскі і А. С. Картукоў; канд. у чл. Бюро Л. Б. Герцовіч. На пленуме ЦК КП(б)Б 1—5.12.1932 чл. Бюро выбраны: С. Р. Міцькоў (да 23.7.1933) і Я. В. Шафарэнка; канд. ў чл. Бюро Р. Н. Брагінскі, П. В. Горын, М. А. Ляўкоў. На аб'яднаным пленуме ЦК і ЦКК КП(б)Б 20—23.7.1933 чл. Бюро выбраны К. К. Ратнек, канд. у чл. Бюро І. Г. Жураўлёў. На пленуме ЦК КП(б)Б 3—6.12.1933 у чл. Бюро каптаваны П. А. Смірноў.

**Бюро ЦК КП(б)Б паміж XV—XVI з'ездамі КП(б)Б** (22.1.1934—10.6.1937). На пленуме ЦК КП(б)Б 22.1.1934 чл. Бюро выбраны: К. Ф. Бенек, М. М. Галадзед, М. Ф. Гікала [1-ы сакратар і чл. Бюро ЦК КП(б)Б да 30.1.1937], В. Ю. Жаброўскі (да 1.3.1934), Л. М. Закоўскі, З. З. Кавальчук (з 1.3. 1934 канд. у чл. Бюро), А. С. Картукоў, І. А. Лычоў (да 1.3. 1934), К. К. Ратнек, А. Б. Рыскін, П. А. Смірноў, І. П. Убарэвіч, А. Р. Чарвякоў, А. А. Чарнушэвіч (да 1.3.1934), В. Ф. Шаранговіч [2-і сакратар і чл. Бюро ЦК КП(б)Б да 1.3. 1934], Я. В. Шафарэнка (да 1.3.1934); канд. ў чл. Бюро: Р. Н. Брагінскі (да 1.3.1934), П. В. Горын, Л. Б. Герцовіч, І. Г. Жураўлёў (да 1.3.1934), Д. Ю. Конік (да 1.3.1934), А. М. Саакян (з 1.3. 1934 чл. Бюро), А. І. Хацкевіч (да 1.3.1934). Пленум ЦК КП(б)Б 28.2—1.3.1934 у адпаведнасці са Статутам ВКП(б) зацвердзіў пастанову Бюро пра скарачэнне колькасці чл. і канд. у чл. Бюро; пленум зацвердзіў Бюро ЦК КП(б)Б з 11 чалавек. Члены: К. Ф. Бенек (да 30.5.1937), М. М. Галадзед, М. Ф. Гікала, Л. М. Закоўскі (да 10.12. 1934), А. С. Картукоў, К. К. Ратнек (да 7.4.1935), А. Б. Рыскін, А. М. Саакян (да 30.1.1937), П. А. Смірноў (да 17.1.1936), І. П. Убарэвіч (да 30.5.1937), А. Р. Чарвякоў; кандыдаты: П. В. Горын (да 17.1. 1936), Л. Б. Герцовіч, З. З. Кавальчук (да 26.9.1936). На пленуме ЦК КП(б)Б 3.8.1934 чл. Бюро і 2-м сакратаром ЦК выбраны Д. І. Валковіч. На пленуме 9—10.12.1934 чл. Бюро выбраны І. М. Ляплеўскі (да 30.1.1937). На пленуме ЦК КП(б)Б 6—7.4.1935 канд. ў чл. Бюро выбраны: І. Ф. Кудзелька, М. К. Стэрнін (да 26.9.1936), А. А. Чарнушэвіч (да 17.1.1936). На пленуме ЦК КП(б)Б 14—17.1.1936 у чл. Бюро ЦК кааптаваны А. С. Буліна; канд. у чл. Бюро — М. Л. Арабей (да 24.6.1936), І. З. Сурта, П. І. Хадасевіч. На пленуме ЦК КП(б)Б 30.1.1937 чл. Бюро выбраны: Г. А. Малчанаў (да 30.5. 1937), І. З. Сурта; канд. ў чл. Бюро: А. В. Аўгустайціс, Л. А. Готфрыд, Р. М. Рубінштэйн. На пленуме ЦК КП(б)Б 14—18.3.1937 чл. Бюро і 1-м сакратаром ЦК выбраны В. Ф. Шаранговіч.

**Бюро ЦК КП(б)Б паміж XVI—XVII з'ездамі КП(б)Б** (20.6.1937—10.6.1938). На пленуме ЦК КП(б)Б 20.6.1937 чл. Бюро выбраны: Б. Д. Берман (да 9.6.1938), І. П. Бялоў (да 31.1. 1938), Д. І. Валковіч (да 25.10.1937), А. А. Варончанка (да 25.10.1937), М. М. Дзеніскевіч [2-і сакратар і чл. Бюро ЦК КП(б)Б да 29.7.1937], І. Г. Жураўлёў (да 25.10.1937), А. І. Мезіс (да 31.1.1938), М. Ф. Нізаўцоў (да 29.7.1937), У. Дз. Патапейка [3-і сакратар і чл. Бюро ЦК КП(б)Б да 25.10. 1937], М. В. Стакун, В. Ф. Шаранговіч [1-ы сакратар і чл. Бюро ЦК КП(б)Б да 29.7.1937]; канд. ў чл. Бюро: А. В. Аўгустайціс (да 25.10.1937), Ф. М. Вайновіч (да 25.10.1937), Л. А. Готфрыд (да 25.10.1937), Н. І. Літвін (да 25.10.1937), Р. М. Рубінштэйн (да 7.7.1937), І. З. Сурта (да 25.10.1937), Дз. В. Юркоў (да 31.1.1938). На пленуме ЦК КП(б)Б 25.10.1937 чл. Бюро выбраны: А. А. Ананьеў, А. Ф. Цвяткоў; канд. у чл. Бюро — І. А. Жабраў (да 9.6.1938). На пленуме ЦК КП(б)Б 30—31.1.1938 чл. Бюро выбраны: А. А. Волкаў [в. а. 1-га сакратара ЦК КП(б)Б з 11.8.1937], П. І. Голікаў, А. Ф. Кавалёў, А. М. Лявіцкі [в. а. 2-га сакратара ЦК КП(б)Б з 11. 8.1937], Н. Я. Наталевіч, М. Я. Рапінскі [3-і сакратар ЦК КП(б)Б з 25.10.1937].

**Бюро ЦК КП(б)Б паміж XVII—XVIII з'ездамі КП(б)Б** (19.6.1938—15.5.1940). На пленуме ЦК КП(б)Б 19.6.1938 чл. Бюро выбраны: А. А. Ананьеў (2-і сакратар і чл. Бюро ЦК да 4.10. 1938), П. І. Голікаў (да 4.10.1938), А. Ф. Кавалёў (да 4.10.1938), М. П. Кавалёў, А. М. Лявіцкі [адразу адкліканы ЦК ВКП(б)], А. А. Наседкін (да 27.1. 1939), Н. Я. Наталевіч, П. К. Панамарэнка (1-ы сакратар ЦК), М. Я. Рапінскі (да 27.1.1939); канд. ў чл. Бюро: І. Д. Кавалькоў (да 27.1.1939), Дз. Ф. Маркін, А. П. Мацвееў, Т. І. Якушава (да 27.1.1939). На пленуме ЦК КП(б)Б 25.7.1938 чл. Бюро выбрана Н. Р. Грэкава (3-і сакратар ЦК). На пленуме ЦК КП(б)Б 2—4.10.1938 чл. Бюро выбраны К. В. Кісялёў, А. П. Мацвееў. На пленуме ЦК КП(б)Б 25—27.1. 1939 чл. Бюро выбраны М. В. Кулагін (2-і сакратар ЦК з 16.11.1939), канд. у чл. Бюро — І. І. Масленікаў. На пленуме ЦК КП(б)Б 15—16.11.1939 чл. Бюро выбраны Л. Ф. Цанава.

**Бюро ЦК КП(б)Б паміж XVIII—XIX з'ездамі КП(б)Б** (20.5.1940—15.2. 1949). На пленуме ЦК КП(б)Б 20.5. 1940 чл. Бюро выбраны: Н. Р. Грэкава (3-і сакратар і чл. Бюро ЦК да 20.12. 1940), К. В. Кісялёў (да 20.12.1940), Ф. І. Кузняцоў (да 20.12.1940), М. В. Кулагін (2-і сакратар і чл. Бюро ЦК да 22.6.1941), У. Н. Малін (сакратар ЦК па прапагандзе і агітацыі з 6.6.1939, сакратар ЦК па прам-сці з 8.3.1941, 3-і сакратар ЦК з 26.8.1943, сакратар ЦК па прам-сці з 7.3.1947 да 1.12.1947; чл. Бюро да 1.12.1947), А. П. Мацвееў, Н. Я. Наталевіч, П. К. Панамарэнка (1-ы сакратар ЦК да 7.3.1947), Л. Ф. Цанава; канд. ў чл. Бюро: Р. М. Байкачоў (сакратар ЦК па кадрах з 16.11.1939 да 20.12.1940), В. Я. Галоўкін (да 20. 12.1940), І. А. Крупеня (да 20.12.1940), Р. Б. Эйдзінаў (чл. Бюро і 3-і сакратар ЦК з 20.12.1940, сакратар ЦК па авіяцыйнай прам-сці з 26.3.1941 да 1.9. 1943). На пленуме ЦК КП(б)Б 27—28.6.1940 чл. Бюро выбраны І. С. Былінскі (да 16.2.1947). На пленуме ЦК КП(б)Б 20—22.12.1940 чл. Бюро выбраны: І. А. Крупеня (да 16.3.1948), Р. Б. Эйдзінаў (да 6.6.1947); канд. ў чл. Бюро: К. І. Бударын, У. Р. Ванееў (3-і сакратар і чл. Бюро ЦК з 26.3.1941 да пач. Айч. вайны). 22.6.1941 у склад членаў Бюро ЦК уведзены П. З. Калінін (2-і сакратар ЦК да 13.9.1944). На пленуме 12—18.2.1945 чл. Бюро выбраны: Ц. С. Гарбуноў (сакратар ЦК па прапагандзе і агітацыі з 26.3.1941 да 16.2. 1947), М. В. Кісялёў (2-і сакратар ЦК з 13.9.1944 да 7.3.1947, чл. Бюро да 6.6.1947), В. І. Казлоў, П. А. Лявіцкі (да 6.6.1947); канд. ў чл. Бюро: М. Я. Аўхімовіч (сакратар ЦК па кадрах з 20.12.1940 да 6.6.1947), М. В. Зімянін (да 6.6.1947). На пленуме ЦК КП(б)Б 15—16.2.1947 чл. Бюро выбраны: К. В. Кісялёў, У. Г. Кудраеў (да 6.6.1947). На пленуме ЦК КП(б)Б 7.3. 1947 чл. Бюро выбраны: М. І. Гусараў (1-ы сакратар ЦК), С. Дз. Ігнацьеў (сакратар ЦК па сельскай гаспадарцы і нарыхтоўках; з 16.3.1948 2-і сакратар), М. Т. Іаўчук (сакратар ЦК па прапагандзе і агітацыі). На пленуме ЦК КП(б)Б 3—6.6.1947 чл. Бюро выбраны: М. В. Зімянін (сакратар ЦК па кадрах), С. Г. Трафіменка. На пленуме ЦК КП(б)Б 27.11—1.12.1947 чл. Бюро выбраны: І. М. Макараў, І. П. Тур (сакратар ЦК па чыг. транспарце з 26.3 да вер. 1941; сакратар ЦК па прам-сці з 1.12.1947). На пленуме ЦК КП(б)Б 1—3.12.1948 чл. Бюро выбраны А. Я. Кляшчоў.

**Бюро ЦК КП(б)Б паміж XIX—XX з'ездамі КП(б)Б** (19.2.1949—20.9.1952). На пленуме ЦК КП(б)Б 19.2.1949 чл. Бюро выбраны: М. І. Гусараў (1-ы сакратар і чл. Бюро ЦК да 3.6.1950), В. І. Закурдаеў (сакратар і чл. Бюро ЦК да 3.6.1950), М. В. Зімянін (2-і сакратар ЦК), А. Я. Кляшчоў, В. І. Казлоў, У. А. Тамашэвіч (сакратар і чл. Бюро ЦК да 3.6.1950), С. Г. Трафіменка (да 11.6.1949), Л. Ф. Цанава, В. Я. Чарнышоў (сакратар і чл. Бюро ЦК з 3.6.1950 да 10.7.1951); канд. ў чл. Бюро: П. А. Абрасімаў (да 3.6.1950), П. М. Брэнч (сакратар і канд. у чл. Бюро ЦК да 3.6. 1950), П. З. Калінін, П. М. Машэраў. На пленуме ЦК КП(б)Б 9—11.6.1949 чл. ЦК і чл. Бюро выбраны С. К. Цімашэнка. На пленуме ЦК КП(б)Б 31.5—3.6; 5.7.1950 чл. Бюро і сакратарамі ЦК выбраны П. А. Абрасімаў, І. П. Ганенка (сакратар ЦК па будаўніцтве з 26.3.1941 да 1.9.1943, сакратар ЦК з 3.6.1950), Ц. С. Гарбуноў, М. С. Патолічаў [1-ы сакратар ЦК КП(б)Б].

**Бюро ЦК КПБ паміж XX—XXI з'ездамі КПБ** (24.9.1952—10.2.1954). На пленуме ЦК КП(б)Б 24.9.1952 чл. Бюро выбраны: П. А. Абрасімаў, М. І. Баскакаў (да 27.6.1953), Ц. С. Гарбуноў (сакратар ЦК), М. В. Зімянін (2-і сакратар і чл. Бюро ЦК да 24.7. 1953), А. Я. Кляшчоў (да 24.7.1953), В. І. Казлоў, К. Т. Мазураў, М. С. Патолічаў (1-ы сакратар ЦК), С. К. Цімашэнка; канд. ў чл. Бюро: І. М. Макараў, П. М. Машэраў. На пленуме ЦК КПБ 25—27.6.1953 чл. Бюро і 2-м сакратаром ЦК выбраны М. Я. Аўхімовіч, чл. Бюро — М. Ф. Дзячко (да 24.7.1953). На пленуме ЦК КПБ 24.7.1953 чл. Бюро выбраны М. І. Баскакаў, І. Ф. Клімаў.

**Бюро ЦК КПБ паміж XXI—XXII з'ездамі КПБ** (13.2.1954—24.1.1956). На пленуме ЦК КПБ 13.2.1954 чл. Бюро выбраны: П. А. Абрасімаў, М. Я. Аўхімовіч (2-і сакратар ЦК), М. І. Баскакаў, Ц. С. Гарбуноў (сакратар ЦК), В. І. Казлоў,

І. Ф. Клімаў, К. Т. Мазураў, М. С. Патолічаў (1-ы сакратар ЦК), С. К. Цімашэнка; канд. ў чл. Бюро: Л. І. Лубеннікаў, І. М. Макараў, П. М. Машэраў. На пленуме ЦК КПБ 29.7.1955 чл. Бюро ЦК выбраны Ц. Я. Кісялеў (сакратар ЦК).

**Бюро ЦК КПБ паміж XXII—XXIV з'ездамі КПБ** (27.1.1956—17.2.1960). На пленуме ЦК КПБ 27.1.1956 чл. Бюро выбраны: П. А. Абрасімаў (сакратар і чл. Бюро ЦК да 8.1.1957), М. Я. Аўхімовіч (2-і сакратар ЦК да 28.7.1956, чл. Бюро да 9.4.1959), М. І. Баскакаў (да 11.4.1958), Ц. С. Гарбуноў (сакратар і чл. Бюро ЦК да 9.1.1960), В. І. Казлоў, Ц. Я. Кісялеў (сакратар ЦК да 28.7.1956, 2-і сакратар да 9.4.1959), І. Ф. Клімаў, К. Т. Мазураў (1-ы сакратар ЦК з 28.7. 1956), І. М. Макараў, М. С. Патолічаў (1-ы сакратар і чл. Бюро ЦК да 28.7. 1956), С. К. Цімашэнка; канд. ў чл. Бюро: А. Н. Аксенаў, Ф. А. Сурганаў. На пленуме ЦК КПБ 6—7.12.1956 чл. Бюро выбраны Ф. А. Сурганаў (з 28.7.1956 сакратар, з 9.4.1959 2-і сакратар ЦК КПБ). Пленум ЦК КПБ 8.1.1957 выбраў чл. Бюро і сакратаром ЦК А. І. Золава (сакратар да 4.12.1957). Пленум ЦК КПБ 3—4.12.1957 выбраў чл. Бюро і сакратаром ЦК Дз. Ф. Філімонава. Пленум ЦК КПБ 9.4.1959 выбраў чл. Бюро і сакратаром ЦК П. М. Машэрава. Пленум ЦК КПБ 9.1.1960 выбраў чл. Бюро і сакратаром ЦК В. Ф. Шауру.

**Бюро ЦК КПБ паміж XXIV—XXV з'ездамі КПБ** (19.2.1960—26.9.1961). На пленуме ЦК КПБ 19.2.1960 чл. Бюро выбраны А. І. Золаў, В. І. Казлоў, Ц. Я. Кісялеў, І. Ф. Клімаў, К. Т. Мазураў (1-ы сакратар ЦК), І. М. Макараў, П. М. Машэраў (сакратар ЦК), Ф. А. Сурганаў (2-і сакратар ЦК), Дз. Ф. Філімонаў (сакратар ЦК), С. К. Цімашэнка (да 9.7.1960), В. Ф. Шаура (сакратар ЦК); канд. ў чл. Бюро. Л. Г. Максімаў, С. В. Прытыцкі. Пленум ЦК КПБ 8—9.7.1960 выбраў чл. Бюро С. В. Прытыцкага.

**Бюро ЦК КПБ паміж XXV—XXVI з'ездамі КПБ** (28.9.1961—3.3.1966). На пленуме ЦК КПБ 28.9.1961 чл. Бюро выбраны: А. І. Золаў, В. І. Казлоў, Ц. Я. Кісялеў, І. Ф. Клімаў, К. Т. Мазураў (1-ы сакратар ЦК да 30.3.1965), І. М. Макараў, П. М. Машэраў (сакратар, з 18.12.1962 2-і сакратар, з 30.3. 1965 1-ы сакратар ЦК), С. В. Прытыцкі (сакратар ЦК з 18.12.1962), Ф. А. Сурганаў (2-і сакратар, з 18.12.1962 сакратар, з 30.3.1965 2-і сакратар ЦК), Дз. Ф. Філімонаў (сакратар ЦК), В. Ф. Шаура (сакратар ЦК да 24.12. 1965); канд. ў чл. Бюро: Л. Г. Максімаў, В. А. Пянькоўскі (да 30.3.1965), С. А. Пілатовіч (сакратар ЦК КПБ з 24.12.1965). На пленуме ЦК КПБ 12—13.6.1962 канд. у чл. Бюро выбраны У. Е. Лабанок. Пленум ЦК КПБ 18.12. 1962 замест Бюро ЦК КПБ стварыў Прэзідыум ЦК КПБ і 2 галіновыя бюро. Бюро ЦК КПБ для кіраўніцтва сельскай гаспадаркай і для кіраўніцтва прам-сцю і будаўніцтвам. Бюро ЦК КПБ для кіраўніцтва сельскай гаспадаркай: У. Е. Лабанок, Ф. М. Пальгуеў, С. Г. Скарапанаў, Ф. А. Сурганаў (старшыня — сакратар ЦК КПБ), Г. А. Філіпаў (нам. старшыні) У сувязі з выбраннем Ф. А. Сурганава старшынёй Бюро ЦК КПБ для кіраўніцтва сельскай гаспадаркай пленум вызваліў яго ад абавязкаў 2-га сакратара ЦК, выбраў сакратаром ЦК; 2-м сакратаром ЦК КПБ выбраны П. М. Машэраў. На пленуме ЦК КПБ 5—6.7.1963 чл. Бюро для кіраўніцтва сельскай гаспадаркай выбраны: Г. М. Машкоў, А. І. Ярэй. На пленуме ЦК КПБ 10—11.1.1964 чл. Бюро выбраны С. М. Пуцылеў. Бюро ЦК КПБ для кіраўніцтва прамысловасцю і будаўніцтвам А. І. Золаў, А. А. Смірноў (нам. старшыні), Г. У. Семяніхін (да 6.7.1963), А. М. Тарасаў (да 6.7 1963), Дз. Ф. Філімонаў (старшыня — сакратар ЦК КПБ). На пленуме ЦК КПБ 5—6.7.1963 чл. Бюро выбраны: У. Г. Каменскі, С. М. Кішкін, Я. А. Мікуловіч, М. П. Тарасаў. На пленуме ЦК КПБ 10—11.1.1964 чл. Бюро выбраны У. В. Мацвееў, М. Ф. Мішчанка. Пленум ЦК КПБ 24.11.1964 скасаваў галіновыя Бюро. Пленум ЦК КПБ 24.6. 1966 перайменаваў Прэзідыум ЦК КПБ у Бюро ЦК КПБ.

**Бюро ЦК КПБ пасля чэрвеньскага (1966) пленума ЦК КПБ:** члены В. І. Казлоў (да 2.12.1967), Ц. Я. Кісялеў, У. Е. Лабанок, І. М. Макараў, П. М. Машэраў (1-ы сакратар ЦК), І. Я. Палякоў, С. А. Пілатовіч (сакратар ЦК), С. В. Прытыцкі (сакратар ЦК да 23.1.1968), А. А. Смірноў (сакратар ЦК КПБ з 30.3.1965 да 24.12.1965 і з 18.6.1968), Ф. А. Сурганаў (2-і сакратар ЦК), Дз. Ф. Філімонаў (сакратар і чл. Бюро ЦК да 18.6.1968); канд. ў чл. Бюро: Г. М. Жабіцкі, С. С. Марахін (да 23.1.1968). На пленуме ЦК КПБ 22—23.1.1968 чл. Бюро і сакратаром ЦК КПБ выбраны У. Ф. Міцкевіч, канд. у чл. Бюро — М. Н. Полазаў.

**Бюро ЦК КПБ паміж XXVII—XXVIII з'ездамі КПБ** (24.2.1971—4.2.1976). На пленуме ЦК КПБ 24.2.1971 чл. Бюро выбраны· Ц. Я. Кісялёў, Л. Г. Кляцкоў, А. Т. Кузьмін (сакратар ЦК), У. Е. Лабанок, П. М. Машэраў (1-ы сакратар ЦК), У. Ф. Міцкевіч (сакратар ЦК да 30.4.1974), І. Я. Палякоў, М. Н. Полазаў, С. В. Прытыцкі, А. А. Смірноў, Ф. А. Сурганаў (2-і сакратар ЦК да 16.7.1971); канд. ў чл. Бюро: У. І. Падрэз, І. М. Трацяк. На пленуме ЦК КПБ 16.7.1971 чл. Бюро і 2-м сакратаром ЦК выбраны А. Н. Аксенаў; канд. ў чл. Бюро· М. І Лагір, Я П Нікулкін На пленуме ЦК КПБ 29—30.4.1974 чл. Бюро і сакратаром ЦК выбраны В. С. Шавялуха.

**Бюро ЦК КПБ паміж XXVIII—XXIX з'ездамі КПБ** (6.2.1976—27.1.1981). На пленуме ЦК КПБ 6.2.1976 чл. Бюро выбраны: А. Н. Аксенаў (2-і сакратар ЦК да 27.12.1978), Ц Я. Кісялёў (да 27.12.1978; 1-ы сакратар ЦК з 16.10 1980), А. Т Кузьмін (сакратар ЦК), М. І. Лагір, П. М. Машэраў (1-ы сакратар ЦК да 4.10.1980), У. Ф. Міцкевіч, Я. П. Нікулкін (да 11.11.1980), М. Н. Полазаў, І. Я. Палякоў, А. А. Смірноў (сакратар ЦК да 29.9.1978), Ф. А. Сурганаў (да 26.12.1976), І. М. Трацяк (да 31.8.1976), В. С. Шавялуха (сакратар ЦК да 6.4.1979); канд. ў чл. Бюро· У. Е. Лабанок, Н. Л. Сняжкова, І. Ф. Якушаў. На пленуме ЦК КПБ 31.8.1976 чл. Бюро выбраны М. М. Зайцаў. На пленуме ЦК КПБ 2.3.1977 чл. Бюро выбраны У. А. Мікуліч, канд. у чл. Бюро — К. М. Платонаў (да 11.11.1980). На пленуме ЦК КПБ 29.9.1978 чл. Бюро і сакратарамі выбраны Л. С. Фірысанаў і Ю. Б. Колакалаў, чл. Бюро — В. А. Гвоздзеў. На пленуме ЦК КПБ 27.12.1978 чл. Бюро і 2-м сакратаром ЦК выбраны У. І. Бровікаў На пленуме ЦК КПБ 6.4.1979 чл. Бюро і сакратаром ЦК выбраны М. І. Дземянцей.

**Бюро ЦК КПБ паміж XXIX—XXX з'ездамі КПБ** (29.1.1981—30.1.1986). На пленуме ЦК КПБ 29.1.1981 чл. Бюро выбраны: А. Н. Аксёнаў (да 17.8.1983), В. Г. Балуеў, У. І. Бровікаў (2-і сакратар ЦК да 17.8.1983, чл. Бюро да 21.1.1986), В. А. Гвоздзеў (да 20.4.1982), М. І. Дземянцей (сакратар ЦК), Я. П. Іваноўскі (да 5.4.1985), Ц. Я. Кісялёў (1-ы сакратар ЦК да 11.1.1983), Ю. Б. Колакалаў (сакратар ЦК), А. Т. Кузьмін (сакратар ЦК), М. І. Лагір, У. А. Мікуліч, У. Ф. Міцкевіч, І. Я. Палякоў, М. Н. Полазаў, Л. С. Фірысанаў (сакратар ЦК да 28.4.1983), І. Ф. Якушаў; канд. ў чл. Бюро: У. Е. Лабанок, Н. Л. Сняжкова (да 5.4.1985), У. П. Шаплыка (да 29.6. 1983). На пленуме ЦК КПБ 2.12.1982 чл. Бюро выбраны Ю. М. Хусаінаў. На пленуме ЦК КПБ 13.1.1983 чл. Бюро і 1-м сакратаром ЦК выбраны М. М. Слюнькоў. На пленуме ЦК КПБ 28.4.1983 чл. Бюро і сакратаром ЦК выбраны У. А. Ляпёшкін, чл. Бюро — М. А. Кавалеў. На пленуме ЦК КПБ 17.8.1983 чл. Бюро і 2-м сакратаром ЦК выбраны Г. Г. Барташэвіч. На пленуме ЦК КПБ 5.4.1985 чл. Бюро выбраны А. А. Малафееў. На пленуме ЦК КПБ 21.1.1986 чл. Бюро выбраны Г. С. Таразевіч.

**Бюро ЦК КПБ паміж XXX—XXXI з'ездамі КПБ** (31.1.1986—9.1990). На пленуме ЦК КПБ 31.1.1986 чл. Бюро выбраны: В. Г. Балуеў, Г. Г. Барташэвіч (2-і сакратар ЦК да 14.10.1987), В. І. Борыс, М. І. Дземянцей (сакратар ЦК да 18.10.1989), У. Г. Еўтух, М В Кавалёў, Ю Б. Колакалаў (сакратар ЦК да 30.12.1988), А. Т. Кузьмін (сакратар ЦК да 28.7.1986), М. І. Лагір, У. А. Ляпешкін (сакратар ЦК), А. А. Малафееў, М. Н. Полазаў (да 28.7.1986), М. М. Слюнькоў (1-ы сакратар ЦК да 6.2.1987), Г. С Таразевіч (да 18.10.1989), Ю. М. Хусаінаў, У. М. Шуралёў (да 22.6.1989); канд. у чл. Бюро — В. В. Гурын (да 22.6. 1989). На пленуме ЦК КПБ 28.7.1986 чл. Бюро і сакратаром выбраны В. А. Пячэннікаў, канд. у чл. Бюро — В. І. Ганчарык. На пленуме ЦК КПБ 6.2.1987 чл. Бюро і 1-м сакратаром ЦК выбраны

Я. Я. Сакалоў. На пленуме ЦК КПБ 25.3.1987 чл. Бюро выбраны В. Ф. Кебіч. На пленуме ЦК КПБ 14.10.1987 чл. Бюро і 2-м сакратаром ЦК выбраны М. С. Ігрунoў (да 27.3.1990). На пленуме ЦК КПБ 18.10.1989 чл. Бюро і сакратаром ЦК выбраны А. С. Камай. Пленум ЦК КПБ 27.12.1989 перавёў з канд. у чл. Бюро В. І. Ганчарыка. На пленуме ЦК КПБ 27.3.1990 чл. Бюро і сакратаром ЦК выбраны А. І. Трутнеў, 2-м сакратаром ЦК — А. С. Камай. На пленуме ЦК КПБ 7.4.1990 чл. Бюро выбраны А. І. Кастэнка.

**Бюро ЦК КПБ паміж XXXI з'ездам КПБ і прыпыненнем дзейнасці КПБ** (30.11.1990—25.8.1991). На пленуме ЦК КПБ 14.12.1990 чл. Бюро выбраны: А. М. Бычак, А. А. Грахоўскі, У. В. Грыгор'еў, А. І. Джус, П. П. Дубіна, А. А. Зеляноўскі (сакратар ЦК з 29.6.1991), А. С. Камай (2-і сакратар ЦК з 30.11.1990), В. Ф. Кебіч, А. В. Кірык, А. І. Кастэнка, А. А. Крыўдзенка, С. С. Лінг (сакратар ЦК з 30.11.1990), Г. М. Лыч, А. В. Максімовіч, А. А. Малафееў (1-ы сакратар ЦК з 30.11.1990), С. П. Маркоўкіна, М. І. Місуна, В. А. Папоў, А. У. Русецкі (сакратар ЦК з 30.11.1990), У. М. Сямёнаў, В. Г. Ціхіня (сакратар ЦК з 30.11.1990), А. І. Трутнеў (сакратар ЦК з 30.11.1990), І. П. Шамякін, Э. І. Шыркоўскі.

3.2.1993 ВС Рэспублікі Беларусь прыняў пастанову «Аб прызнанні страціўшай сілу пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь «Аб часовым прыпыненні дзейнасці КПБ — КПСС на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь». 25.4.1993 адбыўся XXXII (нечарговы) з'езд КПБ, які прыняў рашэнне аб далучэнні КПБ да Партыі камуністаў Беларусі (ПКБ). Гэта рашэнне зацвердзіў II (аб'яднаўчы) з'езд (29—30.5.1993).

*А. А. Кузняеў, М. Ф. Шумейка.*

**БЮРО́ ЦК КПЗБ**, цэнтральны кіруючы орган *Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі*. Створана ў 1929 паводле рашэння *першага з'езда КПЗБ*. Выбіралася на пленумах ЦК КПЗБ, складалася з 3—5 членаў. Падпарадкоўвалася Палітбюро ЦК КПП. У мэтах канспірацыі працавала за межамі Польшчы (у Гданьску, Берліне, Капенгагене, Мінску). За мяжой, як правіла, пастаянна знаходзіліся 2—3 члены Бюро. Кіравала *Краявым сакратарыятам ЦК КПЗБ, Прадстаўніцтвам ЦК КПЗБ пры ЦК КП(б)Б, Мінскай школай КПЗБ*, замежнай часткай Цэнтр. рэдакцыі, займалася агульнапаліт., арганізац., бягучымі і інш. пытаннямі, сістэматычна заслухоўвала справаздачы і планы работы сакратароў акругкомаў КПЗБ, падтрымлівала сувязь з Палітбюро ЦК КПП і ЦК КП(б)Б праз прадстаўніка, члена Бюро ў Мінску. У розны час членамі Бюро ЦК КПЗБ былі А. А. *Альшэўскі*, М. С. *Арэхва*, М. А. *Блінчыкаў*, Ю. *Брун*, С. І. *Будзінскі*, Р. Д. *Вольф*, А. У. *Канчэўскі*, П. *Корчык* (І. К. Лагіновіч; у 1926 — лют. 1936 паліт. сакратар ЦК КПЗБ), С. А. *Мертэнс*, С. Т. Мілер, А. М. Розеншайн, А. С. Славінскі, Е. І. Шоламаў і інш. Сувязной Бюро ў Гданьску, Берліне і Капенгагене доўгі час з'яўлялася А. Марковіч. Бюро ЦК КПЗБ спыніла дзейнасць у 1938 у сувязі з неабгрунтаваным роспускам Кампартыі Польшчы і яе састаўных частак КПЗБ і КПЗУ.

*Літ.:* Революционный путь Компартии Западной Белоруссии (1921—1939 гг.). Мн., 1966; Орехво Н. С. Дела и люди КПЗБ. Мн., 1983. *У. Ф. Ладысеў.*

**БЯГО́МЛЬ**, гарадскі пасёлак у Докшыцкім р-не, цэнтр саўгаса «Бягомльскі». За 30 км на ПдУ ад Докшыц, 42 км ад чыг. ст. Параф'янава. Аўтадарогамі звязаны з Мінскам, Віцебскам, Барысавам, Докшыцамі. 2,2 тыс. ж. (1990).

Узнік як сяло на тэр. маёнтка *Ваўча*, які быў уласнасцю Віленскага каталіцкага біскупства (у Мінскім пав. ВКЛ). У гіст. крыніцах упершыню ўпамінаецца ў 1582, калі жыхары сяла Б. разрабавалі двор біскупскага ўрадніка ў Ваўчы. Пазней цэнтр маёнтка перамясціўся з Ваўчы ў Б. У люстрацыі за 1698 уладанне названа «Ваўча, інакш Бягомль». З'яўляўся даволі буйным маёнткам, падаткі з якога складалі каля 27,8 тыс. злотых, у т. л. чысты даход 16,8 тыс. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) Б. у складзе Расійскай імперыі, канфіскаваны разам з інш. уладаннямі Віленскага біскупства. Напачатку ўваходзіў у Докшыцкі пав., з 1802 — у Барысаўскі пав. Мінскай губ. У пач. 19 ст. належаў графу Манузі, цэнтр маёнтка быў перанесены з Б. ў в. Бераснёўка. У 1812 да маёнтка належала 210 дымоў. Пазней Б.— адно з 15 паселішчаў маёнтка Бераснёўка, уладання памешчыкаў Булгакаў, сяло з праваслаўнай царквой. З 1861 мястэчка Б. цэнтр Бягомльскай вол. Барысаўскага пав. У канцы 19 ст. Б.— сяло, 43 двары, 470 ж., валаснoе праўленне, царква, школа, бальніца. Сав. ўлада ўстаноўлена ў ліст. 1917. У 1918 акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з 1919 — польскімі войскамі. Вызвалены Чырв. Арміяй у 1920. З 17.7. 1924 цэнтр *Бягомльскага раёна*, з 27.9. 1938 — гар. пасёлак. З 2.7.1941 акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі ў Б. і раёне 3,3 тыс. чалавек. У раёне дзейнічалі падп. райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ, падполле. 20.12.1942 партызаны разграмілі ў Б. ням. гарнізон і аднавілі на тэр. Бягомльскага р-на сав. ўладу (гл. *Бягомльская аперацыя 1942*). З сак. 1943 у Б. дзейнічаў партыз. аэрадром, праз які ажыццяўлялася сувязь з Вял. зямлёй. У час карнай аперацыі *«Котбус»* (май — чэрв. 1943) пасля шматдзённых баёў акупанты занялі пасёлак, але да канца ліп. 1943 зноў былі выбіты партызанамі. 5.6.1944 ням.-фаш. захопнікі занялі Б. Пасёлак вызвалены 1.7.1944 воінамі 850-га стралк. палка 277-й стралк. дывізіі 7-й механізаванай брыгады 3-га Бел. фронту і партызанамі брыгады «Жалязняк» у ходзе *Мінскай аперацыі 1944*. З 1960 у Докшыцкім р-не (у 1962—65 у Глыбоцкім р-не). У 1970 у Б. 2,9 тыс. жыхароў. Працуюць вытв. ўчастак Докшыцкага камбіната будаўнічых матэрыялаў, майстэрні раённага камбіната быт. абслугоўвання, вытв. ўчастак і лесанарыхтоўчы пункт Плешчаніцкага вытв. лесанарыхтоўчага аб'яднання, хлебазавод, лясгас. У пасёлку сярэдняя і дзіцячая музычная школы, школа-інтэрнат, сад-яслі, Дом культуры, 2 б-кі, *Бягомльскі музей народнай славы*, бальніца, аддзяленне сувязі. У Б. брацкая магіла сав. воінаў і партызан, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, помнікі: землякам і ахвярам фашызму, Вызвалення, партыз. славы, на месцы былога партыз. аэрадрома.

*Літ.:* Акты Виленской археографической комиссии. Вильна, 1912. Т. 36, № 41; Волости и важнейшие селения Европейской России. Вып. 5. Спб., 1886; Ochmański J. Powstanie i rozwój latyfundium biskupstwa wileńskiego (1387—1550). Poznań, 1963. *М. Б. Батвіннік, В. Л. Насевіч.*

**БЯГО́МЛЬСКАЕ ПАТРЫЯТЫ́ЧНАЕ ПАДПО́ЛЛЕ** ў Вялікую Айчынную вайну. Дзейнічала з ліп. 1941 да вер. 1942. Мела 2 групы, каля 20 падпольшчыкаў. Група ў г. п. Бягомль, якую ўзначальваў Я. А. Шаўцоў, створана ў жн. 1941 па заданні сакратара Бягомльскага РК КП(б)Б С. С. Манковіча, пакінутага ў тыле ворага для падп. работы. Група ў в. Нябышына ўзнікла ў ліп. 1941, яе арганізатар і кіраўнік А. Ф. Фрол. Падпольшчыкі былі звязаны з партыз. групамі і атрадамі, збіралі і перадавалі ім зброю, боепрыпасы, звесткі аб праціўніку, харчы, цёплую вопратку, бланкі дакументаў; вялі работу па выкрыцці лжывай фаш. прапаганды; на канспіратыўных кватэрах мелі радыёпрыёмнікі, запісвалі зводкі Саўінфармбюро і распаўсюджвалі іх сярод насельніцтва. У канцы мая 1942 фашысты раскрылі падп. групы ў Бягомлі. У чэрв. 1942 пасля катаванняў многія з іх пакараны смерцю. У вер. 1942 палавіна нябышынскіх падпольшчыкаў пайшла ў партызаны і група спыніла дзейнасць. Астатнія патрыёты былі сувязнымі партыз. брыгады «Жалязняк» да вызвалення раёна ад ням.-фаш. акупантаў. У Бягомлі ў памяць пра падпольшчыкаў у 1979 устаноўлена мемарыяльная дошка. *М. Ф. Шумейка.*

**БЯГО́МЛЬСКАЯ АПЕРА́ЦЫЯ 1942** у Вялікую Айчынную вайну, баі беларускіх партызан па выгнанні ням.-фаш. акупантаў з тэр. Бягомльскага р-на ў ліст.— снеж. 1942. У аперацыі ўдзельнічалі партыз. брыгады «Жалязняк», «Дзядзькі Колі», асобныя атрады з брыгад Чашніцкай «Дубава», імя Даватара, «За Савецкую Беларусь», агульнае кіраўніцтва аперацыяй ажыццяўляў Ваен. аператыўны цэнтр Барысаўскай зоны. Паводле рашэння *Барысаўскага падпольнага міжрайпартцэнтра* ад 1.10.1942 партызаны разгарнулі баі на далёкіх камунікацыях, каб паралізаваць рух праціўніка на шляхах да Бягомля з Лепеля, Барысава, Докшыц, Мінска (праз Плешчаніцы), з іншых чыг. станцый і баз забеспячэння. Брыгада «Жалязняк» (ка-

мандзір І. П. Ціткоў, камісар С. С. Манковіч) распачала ў лістападзе баявыя дзеянні на ўнутр. камунікацыях Бягомльскага р-на на бярэзінскім і докшыцкім напрамках, партызаны выбілі праціўніка з некалькіх апорных пунктаў, спалілі ўсе масты і пераправы, перакрылі шашэйныя дарогі Барысаў — Плешчаніцы і Барысаў — Бягомль. Кальцо акружэння вакол Бягомля сціскалася. 5—14.12.1942 частка брыгады «Жалязняк» здзейсніла двайны рэйд вакол Бягомля, знішчаючы на шляху невялікія гарнізоны, масты, лініі сувязі. 17 — 19. 12.1942 брыгада ўпарта атакавала праціўніка, які засеў у Бягомлі, але на дапамогу ворагу падаспела падмацаванне, і партызаны вымушаны былі адысці. 20 снеж. да Бягомля наблізілася аб'яднаная партыз. групоўка ў складзе брыгады «Жалязняк», 2 атрадаў з брыгад Чашніцкай «Дубава» і імя Даватара, батальёна з брыгады «За Савецкую Беларусь». Выявіўшы сканцэнтраванне вял. партыз. сіл, праціўнік ноччу спешна пакінуў Бягомль. Раён быў поўнасцю вызвалены ад акупантаў, утварылася *Барысаўска-Бягомльская партызанская зона.* Вораг страціў важныя камунікацыі, асабліва для 3-й танкавай арміі, што абумовіла ў далейшым жорсткую барацьбу партызан з карнікамі ў час карных аперацый *«Котбус», «Веснавое свята».* У гонар Б. а. ў Бягомлі пастаўлены помнік.

*Літ.:* Титков И. Ф. Бригада «Железняк». Мн., 1976; Всенародная борьба в Белоруссии против немецко-фашистских захватчиков в годы Великой Отечественной войны. Т. 1. Мн., 1983. *У. С. Пасэ.*

**БЯГО́МЛЬСКІ МУЗЕ́Й НАРО́ДНАЙ СЛА́ВЫ.** Заснаваны ў 1968 у г. п. Бягомль Докшыцкага р-на. Мае 6 экспазіцыйных залаў (пл. экспазіцыі 474 м$^2$), 13,1 тыс. экспанатаў асн. фонду (1991). Аддзелы: археалогіі, гісторыі Бягомльшчыны ў дакастрычніцкі перыяд, Вял. Айч. вайны, пасляваен. аднаўлення гаспадаркі, этнаграфічны. Экспануюцца каменныя сякеры і касцяны гарпун, знойдзеныя на тэр. Докшыцкага р-на, матэрыялы аб падзеях рэвалюцыі 1905—07, Лютаўскай і Кастрычніцкай рэвалюцый 1917, грамадз. вайны. Асн. месца ў музеі (4 залы) займае экспазіцыя, прысвечаная Вял. Айч. вайне. У ёй матэрыялы пра пачатак вайны, удзел землякоў у абароне Масквы, Ленінграда, Сталінграда, фатаграфіі сав. лётчыкаў, што загінулі ў 1941 на тэр. раёна. Экспанаты расказваюць пра разгортванне падполля і партыз. руху, стварэнне *Барысаўска-Бягомльскай партызанскай зоны:* радыёпрыёмнік, па якім падпольшчыкі прымалі зводкі Саўінфармбюро, карта-схема разгрому варожага гарнізона ў Бягомлі ў 1942, тэлефонны апарат і камутатар партыз. брыгады «Жалязняк», макет партыз. шпіталю, мед. інструменты ўрачоў, друкарскі станок і наборная каса друкарні, дзе друкавалася падп. газ. «Савецкі патрыёт», лістоўкі, матэрыялы пра партыз. майстэрні па вырабе зброі, Бягомльскі партыз. аэрадром і інш., фатаграфіі кіраўнікоў партыз. руху, Герояў Сав. Саюза Р. А. Дзякава, С. С. *Манковіча,* Р. Н. *Мачульскага,* І. П. Ціткова) і інш. Экспануюцца дакументы і матэрыялы аб вызваленні Бягомля і раёна воінамі 277-й стралк. дывізіі, у т. л. пра Герояў Сав. Саюза А. А. Асланава, В. С. Кладзіева, І. С. Палявога, пра землякоў Герояў Сав. Саюза *Ф. І. Перхаровіча,* А. І. *Чарныша,* А. Г. *Юхнаўца.* У этнагр. аддзеле — кросны, узоры старадаўняга адзення, вырабы прыкладнога мастацтва. Сярод экспанатаў музея творы жывапісу, скульптуры, матэрыялы пра бел. пісьменнікаў П. Панчанку, Ю. Свірку, А. Ставера, Л. Чарняўскага, кампазітара Н. Сакалоўскага і інш.

Л. І. Бяда.

З. Бядуля.

**БЯГО́МЛЬСКІ РАЁН.** Існаваў у БССР у 1924—60. Утвораны 17.7.1924. Цэнтр раёна — вёска, з 27.9.1938 г. п. *Бягомль.* Пл. каля 1,4 тыс. км$^2$, нас. 28 265 чал. (на 1.1.1925), 296 населеных пунктаў. Падзяляўся на 9 сельсаветаў: Бягомльскі, Бярэзінскі, Бярозкаўскі, Вітуніцкі, Восаўскі, Глінскі, Домжарыцкі, Кадлубішчанскі, Нядальскі. Уваходзіў у Барысаўскую, з 9.6.1927 да 26.7.1930 у Мінскую, з 21.6.1935 у Лепельскую акругі, з 20.2.1938 у Мінскай вобл. У вер. 1927 да раёна далучаны Іканскі і Мсціжскі сельсаветы скасаванага *Зембінскага раёна.* На 1.1.1941 у раёне 10 сельсаветаў: Бярозкаўскі, Бярэзінскі, Вітуніцкі, Восаўскі, Глінскі, Домжарыцкі, Іканскі, Кадлубішчанскі, Мсціжскі, Нядальскі. У ліп. 1954 ліквідаваны Кадлубішчанскі і Нядальскі сельсаветы. 20.1. 1960 у сувязі з узбуйненнем раёнаў Б. р. скасаваны. Яго тэр. размеркавана паміж 3 раёнамі Віцебскай і Мінскай абл.: у Докшыцкі р-н увайшлі Бярозкаўскі, Бярэзінскі, Вітуніцкі, Восаўскі, Глінскі сельсаветы і Бягомль; у Лепельскі — Домжарыцкі сельсавет; у Барысаўскі — Іканскі і Мсціжскі сельсаветы.

*Літ.:* Административно-территориальное устройство БССР: Справ. Т. 1—2. Мн., 1985—87. *М. І. Камінскі.*

**БЯГУ́Н** Аляксей Васілевіч [4(16).1.1885, в. Пярэжыр Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Пухавіцкі р-н — 7.2.1943], удзельнік рэв. руху на Беларусі. Скончыў Батушэўскую царк.-прыходскую школу. З 1904 настаўнічаў на Міншчыне. У рэвалюцыю 1905—07 кіраўнік сял. выступленняў у Ігуменскім пав. У 1906 арыштаваны і сасланы ў Архангельскую губ., адкуль уцёк. Эмігрыраваў у ЗША, быў чл. Амерыканскай сацыяліст. партыі, пасля расколу якой увайшоў у Кампартыю ЗША, дэлегат яе І з'езда (1919). Пасля грамадз. вайны на радзіме. З 1921 супрацоўнік інфармацыйнага аддзела ЦБ КП(б)Б. У 1924—41 на парт. і гасп. рабоце ў Мінскай і Магілёўскай абл. З 1941 на прафс. рабоце ва Узбекістане. Памёр ад тыфу ў г. Бухара.

*Э. А. Карніловіч.*

**БЯДА́** Леанід Ігнатавіч (16.8.1920, с. Навапакроўка Урыцкага, цяпер Ленінскага р-на Кустанайскай вобл.— 26.12.1976), удзельнік вызвалення Беларусі ад ням.-фаш. захопнікаў у Вял. Айч. вайну, двойчы Герой Сав. Саюза (1944, 1945), ген.-лейт. авіяцыі (1972). Засл. ваенны лётчык СССР (1971). Скончыў Чкалаўскую ваен. авіяц. школу пілотаў (1942), Ваенна-паветр. акадэмію (1950), Ваен. акадэмію Генштаба (1957). У Вял. Айч. вайну са жн. 1942 на Сталінградскім, Паўд., 4-м Укр., 3-м Бел. франтах — пілот, камандзір эскадрыллі, пам. камандзіра штурмавога авіяпалка. Удзельнік Сталінградскай бітвы, вызвалення Украіны, Беларусі, Літвы, наступальных аперацый ва Усх. Прусіі і Польшчы. Зрабіў 214 баявых вылетаў. Пасля вайны камандаваў авіяц. палком, дывізіяй, авіяцыяй БВА. Чл. ЦК КПБ з 1976. Дэп. Вярх. Савета БССР у 1958—62, 1974—76. Загінуў у аўтакатастрофе. У Мінску і Лідзе яго імем названы вуліцы, у Кустанаі ўстаноўлены бронзавы бюст.

**БЯДУ́ЛЯ** Змітрок [інш. псеўд. Ясакар, Сымон Пустэльнік, Іскра, Святагор, Ярыла Чырвоны, сапр. Плаўнік Самуіл Яфімавіч; 23.4. 1886, мяст. Пасадзец Вілейскага пав. (цяпер вёска Лагойскага р-на) — 3.11. 1941], беларускі пісьменнік, удзельнік бел. нац.-вызваленчага руху. З сям'і яўрэя-арандатара, які стаў дробным лесапрамыслоўцам. Вучыўся ў хедары (пач. яўр. школе), ешыбоце (школе рабінаў), але не скончыў яго. Непрацяглы

час працаваў хатнім настаўнікам, займаўся самаадукацыяй. Першы друкаваны твор — празаічны абразок на бел. мове «Пяюць начлежнікі» — апубл. ў газ. «Наша ніва» (23.9.1910). У гэтай жа газеце змяшчаліся яго допісы і вершы. У 1911 — 12 у часопісах для пачынаючых літаратараў «На берегах Невы» (С.-Пецярбург) і «Молодые порывы» (Вільня) друкаваў на рус. мове вершы і празаічныя абразкі рамантычнага зместу. У канцы 1912 пераехаў у Вільню. Працаваў у выдавецкім т-ве, змяшчаў вершы і артыкулы ў газ. «Беларус». У выд-ве «Загляне сонца і ў наша аконца» (С.-Пецярбург) выйшаў яго першы зб. «Абразкі» (1913) — лірычныя мініяцюры ў прозе, у якіх бел. веска, селянін і прырода паказваюцца ў рамантычным асвятленні Характэрныя матывы — востра эмацыянальнае захапленне прыгажосцю роднага краю, паэтызацыя вясковага побыту, раскрыцце духоўнага зместу працы, асуджэнне сац. несправядлівасці. Часта выступаў у друку з публіцыстычнымі артыкуламі, удзельнічаў у культ. і грамадска-паліт. жыцці. У першых апавяданнях («Малітва малога Габрусіка», «Гармонік плакаў», «Шалены») паказаў нараджэнне з сял. асяроддзя рамантычнай асобы, здольнай да напружанага, духоўна змястоўнага жыцця. Апавяданні «Злодзей», «Гора ўдавы Сымоніхі», «Пяць лыжак заціркі», «Летапісцы», «Умарыўся», «Малыя дрывасекі» і інш.— глыбокія тыпова-рэалістычныя малюнкі сял. побыту ва ўмовах сац. уціску. Паэтызаваў духоўную стойкасць селяніна, выспяванне пратэсту супраць прыгнёту, сцвярджаў веру ў лепшую будучыню Беларусі («Буслы»). Асуджаў здраду часткі бел. інтэлігенцыі нац ідэалам і роднаму народу, развіў і паглыбіў тэму нац. мяшчанства (апавяданне «На каляды к сыну»). Паказваў трагічна цяжкія сац. і бытавыя ўмовы, якія стрымлівалі развіцце маст. талентаў з народа (апавяданне «Велікодныя яйкі»). Друкаваў артыкулы пра сувязь мастацтва з жыццем, падтрымліваў сацыяльна пафаснае, духоўна змястоўнае мастацтва, выказваў веру, што духоўная спадчына бел. народа здатная служыць яго новаму адраджэнню («Не адным хлебам», «Трэба жыць з людзьмі» і інш.) З гуманістычных і дэмакр. пазіцый рэзка асуджаў 1-ю сусв. вайну Гістарычную тэму ў легендарным плане распрацоўваў у вершах «Жалезны воўк» (пра заснаванне Вільні кн. Гедзімінам), «Касцёл св. Ганны», у «Казцы старога Лявона» (пра наведванне Аляксандрам І Даўгінава; засталася ў рукапісе). У 1915 вярнуўся ў Пасадзец, неўзабаве выехаў у Мінск. Удзельнічаў у рабоце *Мінскага аддзела Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны*. Зблізіўся з М. *Багдановічам*, жыў з ім на адной кватэры. Пасля Лют. рэв. 1917, якую рашуча падтрымаў, у творчасці Б. ўзмацняецца ідэя нац дзяржаўнасці Беларусі. Уваходзіў у арганіз. бюро *Беларускай народнай партыі сацыялістаў*. Вітаў адкрыццё Усебеларускага з'езда (снеж. 1917). У 1918—20 веў актыўную публіцыстычную і паліт дзейнасць з незалежніцкіх пазіцый, выступаў у абарону дэмакратыі, крытыкаваў бальшавікоў, якія недаацэньвалі ў практычным правядзенні сваёй палітыкі нац пытанне і дапускалі насілле. Асуджаў польскую акупац. палітыку на Беларусі. Аўтар паліт. фельетона, накіраванага супраць Дзянікіна, Калчака і Юдзеніча (1919). Падтрымліваў намаганні па стварэнні бел. войска, дапамагаў у рабоце *Беларускай вайсковай камісіі*, выступаў у жанры «жаўнерскай песні». У апавяданнях «Смерць пані» і «Бондар» у рэалістычным духу паказаў сац. асуджанасць класа паноў і яго варожасць імкненням працоўнага люду. Пасля ўстанаўлення сав. улады падтрымаў яе курс на адраджэнне нац культуры, актыўна ўключыўся ў культ. і грамадскае жыццё. Працаваў у газ. *«Савецкая Беларусь»*, рэдагаваў часопісы — дзіцячы «Зоркі», краязнаўчы *«Наш край»*. У першым паслярэв. зб. «Пад родным небам» (1922) моцны матыў духоўнага значэння нац.-культ. спадчыны для адраджэння народа. Вера ў духоўнае абуджэнне роднага краю выказана ў паэме «Беларусь» (1923). На смерць У. І. Леніна адгукнуўся паэмай «Чорна-чырвоная жалоба» (1924), дзе фігура бальшавіцкага правадыра параўноўвалася са значэннем для чалавечай цывілізацыі Хрыста, Буды і Магамета. У ліку нямногіх старэйшых пісьменнікаў быў прыняты ў літ. аб'яднанне «Маладняк», у 1926 перайшоў ва «Узвышша» У зборніках «Буралом» (1925), «Паэмы» (1927) — рамантычна-пафаснае ўслаўленне рэв. перамен. Пісаў вершы з нагоды важнейшых гістарычна-рэв. падзей. Рамантычная аповесць «Салавей» (1927, экранізацыя 1937, аднайменны балет, музыка М. Крошнера, 1939, інсцэніроўка пастаўлена тэатрам Я Купалы, 1937; 1956) — пра гіст. мінулае бел. народа ў фальклорна-легендарным плане, пра яго сац. пратэст супраць прыгнечання панамі-прыгоннікамі; ставіцца праблема ўзаемаадносін мастацтва і жорсткай дыктатарскай улады. У аповесцях «Год за годам» і «Таварыш Мінкін», апавяданнях «Дэлегатка», «Тры крыжыкі», «Рунь», «Дзве ночы», «Віхор» паказаны некаторыя тыповыя асаблівасці сав. рэчаіснасці, аднак заўважаецца ўплыў афіц. міфалагізацыі і спрашчэння тагачаснага жыцця Раман «Язэп Крушынскі» (1929—32) прысвечаны паказу характэрных сац.-бытавых зрухаў у жыцці бел. сялянства ў пач. 20 ст і пасля рэвалюцыі. У 1-й кнізе праўдзіва раскрыты складаныя і супярэчлівыя працэсы ўсталявання новай рэчаіснасці ў весцы, паказаны ўплыў рэв. змен на маральна-псіхалагічны стан сялянства. Вобраз гал. героя Крушынскага — тыповае абагульненне сацыяльна-маральнага абліччa самай заможнай часткі бел. сялянства ў яго імкненні да лідэрства ў грамадскім і эканам. развіцці вескі з яго станоўчымі (дынамізм, вял. працаздольнасць, гасп. разліковасць, здатнасць да шырокага прадпрымальніцтва аж да мяжы рызыкоўнасці) і адмоўнымі (душэўная жорсткасць, раўнадушша да людзей, няўстойлівая мараль, авантурнасць учынкаў) рысамі. У 2-й кнізе рамана вобраз Крушынскага набывае далейшае рэалістычнае развіцце адпаведна з грамадскімі падзеямі пярэдадня калектывізацыі, аднак у абмалёўцы сял. масы і інтэлігенцкага асяроддзя дапушчаны вульгарныя спрашчэнні, антыгіст характарыстыкі ў духу ідэйных абвінавачанняў тагачаснай афіцыёзнай палітыкі, у скажоным выглядзе падаецца сутнасць нацыянальна-культ руху на Беларусі. Аўтабіяграфічныя аповесці «Наблiжэнне» (1935) і «У дрымучых лясах» (1939) праўдзіва і каларытна перадаюць побыт бел. мястэчка напярэдадні 1-й сусв. вайны, трагічнае становішча народа ў час вайны, антычалавечую яе сутнасць, выспяванне нар пратэсту і рэв. настрояў у салдат і насельніцтва Апошні буйны твор — «Сярэбраная табакерка» (нап. ў 1940, надр. ў 1953) — па жанры з'яўляецца літ казкай, пабудаванай як на традыц.-фальклорных матывах, так і з улікам нац. і сусветнага літ.-мастацкага выкарыстання нар. творчасці, мае складаны грамадска-філас. змест, актуальны для сав. рэчаіснасці. Ставіцца праблема духоўнай падрыхтаванасці народа да карэнных рэв. перамен, суадносін волі народа і таталітарнай улады, месца сапраўднага мастацтва ў грамадскім жыцці і непрыняцця ім дэспатыі, сцвярджаецца правамернасць барацьбы прыгнечанага народа за рэв. абнаўленне жыцця, за волю і шчаслівую будучыню У змесце відавочная праекцыя на стан сав. грамадства 1930-х гадоў, выразна прасочваецца думка пра страту народам рэв. заваёў, робіцца метафарычны намек на контррэв. перараджэнне сав. ладу пры Сталіне (рэвалюцыя — паланенне смерці, яе вызваленне — контррэвалюцыя). Напісаў шмат твораў для дзяцей, літ.-крытычных артыкулаў. Даследаваў пытанні этнаграфіі і фальклору («Вера, паншчына і воля ў беларускіх народных казках і песнях», 1924). Аўтар артыкула «Жыды на Беларусі» (1918), у якім паказаны лёс прышлага яўрэйства на бел. землях, яго ўзаемаадносіны з карэннымі жыхарамі, ахарактарызавана яго культура і раскрыта роля гэтай культуры ў суджыцці 2 народаў. У звароце «Да жыдоўства» (1919) заклікаў яўрэяў дапамагаць адраджэнню Беларусі Апублікаваў арт. «Партызанскі рух у Заходняй Беларусі» (1925). У 1939 у складзе брыгады бел. пісьменнікаў выязджаў у Беласток з мэтай падрыхтоўкі да выбараў у Народны сход Зах. Беларусі. Перакладаў на бел. мову асобныя творы Т. Шаўчэнкі, Ю. Будзяка, яўр. пісьменнікаў. Творы Б. перакладаліся на мовы народаў былога СССР і за мяжою. Яго імем названы вуліцы ў Мінску, Віцебску, Жабінцы, Маладзечне, школа ў в. Пасадзец, на будынку школы мемарыяльная дошка,

каля будынка — бюст (скульпт. З. Азгур).

*Тв.* Збор тв Т 1—5 Мн., 1985—89, Аўтабіяграфія // Пяцьдзесят чатыры дарогі Мн., 1963.

*Літ* Смолкін М Змітрок Бядуля Мн., 1961; Каваленка В Пошукі і здзяйсненні Творчасць Змітрака Бядулі Мн., 1963, Хведаровіч М Памятныя сустрэчы. 2 выд Мн, 1963. С. 61—85, Гісторыя беларускай савецкай літаратуры Т 1 Мн, 1965, Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры Т 2 Мн, 1969, Казека Я З невычэрпных крыніц // Казека Я Голас часу Мн, 1975, Гісторыя беларускай савецкай літаратуры, 1917—1940 Мн., 1981. *В А Каваленка*

**БЯЗМЕ́Н** 1) даўнія ручныя рычажныя шалі. Металічны або драўляны стрыжань з пастаянным грузам (гірай) на адным канцы і кручком ці чашкай для ўтрымання грузу на другім. На стрыжні шкала адліку і рухомая апора — абойма ці драцяная пятля. Карысталіся Б. пераважна ў нар. побыце. Часам Б. называюць ручныя спружынныя шалі. 2) Даўняя мера масы на Беларусі, велічыня якой у розныя часы мянялася ад 6 да 10 фунтаў *К І Скурат*

**БЯЛАВІЧЫ**, веска ў Косаўскім сельсавеце Івацэвіцкага р-на. За 15 км на З ад Івацэвіч і чыг. ст. Івацэвічы. 174 двары, 415 ж. (1991).

У пісьмовых крыніцах упамінаецца з 2-й пал. 15 ст. як сяло Слонімскага пав. У пач. 16 ст. Б. належалі кн. Міхаілу Глінскаму, з 1509 перайшлі на Сямёна Чартарыйскага. Паводле прывілея 1526 вял. князя ВКЛ Жыгімонта I Старога Б. (яе ўладальнікам быў Гаўрыла Тышкевіч) сталі мястэчкам. Як сведчыць попіс войска літ. 1567, маршалак, дзяржаўца менскі і ваўкавыскі Васіль Тышкевіч выставіў са сваіх маенткаў у Слонімскім пав. (Б., Ласосіна, Спорава) 66 вершнікаў і 33 пешых воінаў. У 1598 уладальнікам Б. стаў канцлер Вял. літоўскі Л. Сапега. У 1630 у мястэчку збудавана Ільінская царква. З 1795 у складзе Расійскай імперыі, у Слонімскім пав. з 1797 Літоўскай, з 1801 Гродзенскай губ. У 19 ст. Б. мястэчка Косаўскай воласці. У пач. 1880-х гадоў 42 двары, 664 ж., заезны двор, школа. У час 1-й сусв. вайны акупіраваны ням. войскамі. З 1921 у складзе Слонімскага пав. Навагрудскага ваяв. Польшчы. З 1939 у БССР, з 12 10 1940 цэнтр сельсавета Косаўскага р-на, з 20.9.1947 — Івацэвіцкага, з 25.12.1962 Бярозаўскага, з 6.1.1965 да 1.4.1968 Івацэвіцкага р-наў. У час Вял. Айч. вайны з чэрв. 1941 акупіраваны ням.-фаш. войскамі. Вызвалены войскамі Чырв. Арміі ў ліп. 1944 у ходзе Беларускай аперацыі. Цяпер веска ў складзе калгаса «Косава». У Б. пач. школа, б-ка, сельскі клуб. Помнікі кіраўнікам партыз. руху на Брэстчыне І. І. *Баброву,* К. Д. Талоку і землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. Захаваўся помнік архітэктуры 2-й пал. 18 ст.— Ільінская царква са званіцай 19 ст. На ўскраіне вескі 2 курганныя могільнікі, недалёка ад яе — курган.

*Літ* Описание рукописного отделения Виленской публичной библиотеки. Вильна, 1898 Вып 3 С 35, Русская историческая библиотека Спб, 1915 Т. 33 С 437, Волости и важнейшие селения Европейской России Спб, 1886 Вып 5 С 78 *В У Шаблюк.*

**БЯЛА́РУЧЫ**, вёска ў Лагойскім р-не, на р. Вяча. Цэнтр сельсавета і саўгаса «Слава». За 20 км на ПдЗ ад Лагойска, 26 км ад чыг. ст. Мінск. 103 ж., 52 двары (1989).

У 16 ст. вядома як мяст. Бяла́руч Менскага ваяв. ВКЛ. Паводле актавай кнігі Менскага гродскага суда за 1600, маёнтак, мястэчка і двор Бяларуцкі належалі Алене Друцкай-Горскай. У 1870 мястэчка, цэнтр Бяларуцкай вол. Мінскага пав.; 55 душ мужчынскага полу. У 1880 15 двароў, 140 ж., царква, нар. вучылішча, якое ў 1898 скончыў Я. Купала. У 1917 было 62 двары, 332 жыхары. З 20.8.1924 цэнтр сельсавета Астрашыцка-Гарадоцкага, з 18.1.1931 Лагойскага р-наў. У 1930 створаны калгас «Іскра». У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1941 акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія ў ліп. 1942 вёску спалілі (69 двароў) і 13 жыхароў загубілі. Вызвалены ў пач. ліп. 1944 у час Мінскай аперацыі. У 1970 164 ж, 54 двары У весцы Дом культуры, б-ка, сярэдняя школа, дзіцячыя яслі-сад, фельчарска-акушэрскі пункт, аддзяленне сувязі. Брацкія магілы сав. воінаў, партызан Н. Я. Харчанка і П. М. Шымчанкі, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. У цэнтры вескі гарадзішча і селішча эпохі Кіеўскай Русі.

**БЯЛЕ́ВІЧ** Фёдар Мікалаевіч (н. 21.5. 1923, ст. Бада Хілокскага р-на Чыцінскай вобл.), Герой Сав. Саюза (1945). Беларус. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1942 на фронце. Удзельнік Сталінградскай бітвы, баеў пад Ржэвам, Ярцавам, вызвалення Беларусі, Польшчы, Берлінскай аперацыі. Вызначыўся ў баях каля Франкфурта-на-Одэры ў крас. 1945. Наводчык станковага кулямета Б. з групай байцоў 3 гадзіны адбіваў варожыя контратакі. Паранены, не пакінуў занятых пазіцый. Жыве і працуе ў Мінску.

**БЯЛЕ́ВІЧ** Яфім Яфімавіч [15(27).2. 1888, Мінск — ?], дзеяч беларускага нацыянальнага руху. Вучыўся ў Мінскай гімназіі, з якой у 1907 за ўдзел у вучнёўскіх беспарадках выключаны і арыштаваны. У тым жа годзе экстэрнам скончыў гімназію. Пасля заканчэння юрыд. ф-та Пецярбургскага ун-та (1912) прызваны ў армію. У 1-ю сусв. вайну на фронце, прапаршчык, штабс-капітан. Ад вайскоўцаў-беларусаў абраны дэлегатам на *Усебеларускі з'езд 1917,* член яго прэзідыума. Займаў пасаду міністра юстыцыі і фінансаў (да ліп. 1918) у Нар. сакратарыяце Беларусі — 1-м урадзе Бел. Нар. Рэспублікі (БНР). Нязгодны з яго палітыкай выйшаў у адстаўку. Дыпламатычны прадстаўнік урада БНР у Кіеве, Адэсе, Берліне і інш. У 1919 арыштаваны палякамі як дзеяч БНР, уцек з-пад варты. У 1918—19 член Бел. партыі сацыялістаў-федэралістаў, у 1920— Бел партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў (БПС-Р), з якой у жн. 1920 выйшаў з-за адмовы лідэраў БПС-Р падпісаць Дэкларацыю аб абвяшчэнні незалежнасці Сав. Сацыяліст. Рэспублікі Беларусь ад 31. 7.1920. У 1920—22 служыў у чыг. часцях Чырв. Арміі ў Гомелі. 1.10.1920 арыштаваны асобым аддзелам Зах. фронту па падазрэнні ў контррэв. дзейнасці, вызвалены праз 6 месяцаў. Удзельнічаў у правядзенні ліквідацыйнага з'езда БПС-Р (чэрв. 1924) У 1925—30 упаўнаважаны Наркамфіна БССР, з 1931 працаваў у Белшвейаддзяленні ВСНГ. 19.3.1932 арыштаваны ДПУ БССР і 2.10.1932 калегіяй АДПУ Беларусі асуджаны на 5 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Пакаранне адбываў у Свірлагу, дзе 27.12.1936 зноў арыштаваны і 8.2.1937 Ленінградскім абл. судом прыгавораны да 5 гадоў папраўча-працоўных лагераў з пазбаўленнем правоў на 5 гадоў. Далейшы лес невядомы. Рэабілітаваны па першым прыгаворы прэзідыумам Мінскага абл. суда 16.11.1963, па другім — пракуратурай Расійскай Федэрацыі 16.12.1992.

*М М Клімовіч, У. М Міхнюк*

**БЯЛЕ́ЦКІ** Аляксей Віктаравіч (1841, г Кірылаў Наўгародскай губ.— 1907, Вільня), дзеяч асветы, гісторык. З сям'і праваслаўнага святара. Скончыў Наўгародскую духоўную семінарыю, С.-Пецярбургскую духоўную акадэмію (1865). З 1879 у Віленскай навуч. акрузе настаўнік рус. мовы, дырэктар *Полацкай настаўніцкай семінарыі,* акр. інспектар, пам. папячыцеля акругі. На апошняй пасадзе працаваў 17 гадоў, асаблівую ўвагу аддаваў паляпшэнню ўмоў дзейнасці настаўніцкіх семінарый. Актыўна супрацоўнічаў у рус. культурна-асветных, рэліг. і дабрачынных т-вах Вільні (Т-ве прыхільнікаў гіст. асветы ў памяць імператара Аляксандра III, Святадухаўскім брацтве, музеі графа Мураўёва, Чырвоным Крыжы і інш.). Аўтар кніг і артыкулаў па пытаннях педагогікі і гісторыі нар. асветы. У працах Б. ўсебакова разглядаюцца асновы арганізацыі вучобы ў навуч. установах *піяраў, езуітаў* і інш. манаскіх ордэнаў на Беларусі, падрабязна аналізуецца дзейнасць школ Віцебскай і Магілёўскай губ. у канцы 18 — пач. 19 ст., сутнасць рэформ *Адукацыйнай камісіі,* захадаў Віленскага ун-та па рэарганізацыі навуч. устаноў на Беларусі ў 1-й чвэрці 19 ст., даследуецца пастаноўка навук. працэсу ў царк.-прыходскіх, нар і дамашніх вучылішчах, асвятляецца работа прыказаў грамадскай апекі Вывучаў пытанні рэформы асветы яўрэяў у Расіі ў 1-й пал. 19 ст., няўдачу якой тлумачыў непапулярнасцю ў той час агульнай адукацыі сярод большасці яўр. насельніцтва. Даследаванням Б. ўласцівы грунтоўны падбор першакрыніц, уважлівыя адносіны да прац папярэднікаў. У яго творах шмат каштоўных звестак па гісторыі нар. асветы на Беларусі Аднак Б. стаяў на вялікадзяржаўных пазіцыях, ён не прызнаваў існавання бел нацыі і яе культуры, у сваіх публікацыях нярэдка збіваўся на ардынарную

апалагетыку манархізму і праваслаўя.

*Тв* Вопрос об образовании русских евреев в царствование императора Николая I Спб, 1894, Неудавшаяся попытка дать латинскому духовенству Западной России воспитание в русском духе Вильна, 1897 [пад псеўд Русский], Открытие музея графа М Н Муравьева Вильна, 1901, Краткий исторический обзор деятельности управления Виленского учебного округа с 1803 по 1869 г Вильна, 1903, Попечитель Виленского учебного округа Н А. Сергиевский Вильна, 1903; Сорокалетие русской начальной школы в Северо-Западном крае России [Памяти кн А. П Ширинского-Шахматова] Вильна, 1904; Заботы императрицы Екатерины II о распространении образования в Полоцкой и Могилевской губерниях [ист очерк] Вильна, 1905; Исторический обзор деятельности Виленского учебного округа за первый период его существования, 1803—1832 Отд 3 Вильна, 1906

*Літ* · А В Белецкий Некролог // Народное образование в Виленском учебном округе 1908 № 1 *М Я Рыбко*

**БЯЛІ́НСКІ** Вісарыён Рыгоравіч [30. 5(11.6).1811, г. Свеабарг (цяпер р-н Хельсінкі) — 25.5(7.6).1848], рускі літаратурны крытык, філосаф, публіцыст, рэв. дэмакрат. Вучыўся на філалагічным аддзяленні Маскоўскага ун-та (1829—32), адкуль быў выключаны (фармальна — за непаспяховасць, фактычна — за антыпрыгонніцкую драму «Дзмітрый Калінін»). Супрацоўнічаў у маск. часопісах. Збіраўся заняць абяцаную яму пасаду настаўніка пав. вучылішча на Беларусі, да прашэння дадаў рэферат «Мае думкі пра тое, якім чынам належыць дзейнічаць настаўніку пры навучанні рускай мове вучняў, што не могуць гаварыць на ей, і які, са свайго боку, не ведае іх роднае мовы» (Неман. 1968 № 1. С. 183). Калі справа з назначэннем зацягнулася, ен адмовіўся ад пасады. Увосень 1839 пераехаў у Пецярбург і стаў вядучым крытыкам час «Отечественные записки», а з 1847 да канца жыцця — час. «Современник». У працы «Літаратурныя мары» (1834) вызначыліся асноўныя тэмы крытыкі ў «ідэалістычны» перыяд творчасці: дэмакр. асветніцтва, адмаўленне псеўдакласіцызму і кансерватызму, гістарызм літ. мыслення, арыентацыя на крытычны рэалізм, погляд на сусв. л-ру як шматгалосую гармонію нац. л-р, спалучэнне яркай публіцыстычнасці з філас. глыбіней. У артыкулах 1840 — 41 у дэмакр. кірунку развіваў ідэі ням класічнай філасофіі, пераходзіў на пазіцыі асветніцкага матэрыялізму. Абгрунтоўваў прынцыпы рэв.-дэмакратычнай эстэтыкі, крытыкаваў афіц. ідэалогію «праваслаўя, самадзяржаўя і народнасці», канцэпцыі «чыстай красы» і «мастацтва дзеля мастацтва».

Гіст. погляды Б., які, паводле Г. В. Пляханава, валодаў «чуццём геніяльнага сацыёлага», шматгранна выявіліся ў яго літ.-крытычнай спадчыне, у гістарычных нарысах (рэцэнзіі на кнігі «Дапаможнік па ўсеагульнай гісторыі», «Справы Пятра Вялікага» І. Голікава, «Гісторыя Маларосіі» М Маркевіча, «Гісторыя консульства і імперыі» французскага гісторыка А. Цьера і інш.). Галоўнай крыніцай гіст. прагрэсу ён лічыў філасофскія, сацыяльна-паліт., літ.-мастацкія ідэі і духоўную творчасць нагогул. Разам з тым Б. адзін з першых у Расіі звярнуў увагу на значэнне матэрыяльных патрэб у грамадскім развіцці, на залежнасць поглядаў, ідэалаў і каштоўнасцей людзей ад грамадскага асяроддзя. Галоўная думка яго шматлікіх гіст. экскурсаў — крытыка суб'ектывісцкіх канцэпцый гісторыі: паводле яго глыбокага перакanання, гісторыя — не набор выпадковых падзей, не вынік самавольства гіст. дзеячаў, а прычынна-абумоўленая, аб'ектыўная заканамернасць. У адрозненне ад стараж. і сярэдневяковых цывілізацый сама культура Новага часу становіцца гістарычнай па зместу і мэтанакіраванасці: «Век наш,— пісаў Б.,— пераважна г і с т а р ы ч н ы век... Гісторыя стала цяпер як бы агульнай асновай і адзінай умовай усякіх жывых ведаў: без яе стала немагчымым спасціжэнне ні мастацтва, ні філасофіі... Гістарычнае сузіранне пранікла ва ўсю сучасную рэчаіснасць, нават у сам наш побыт» (Собр. соч. М., 1948. Т. 2. С. 225, 227). На думку Б., гіст. развіццё — дыялектычны працэс, бо рух да новых гарызонтаў грамадскага быцця і культуры адбываецца не прасталінейна і не зігзагамі, а ў форме спіральнага круга, і, такім чынам, вышэйшы пункт пеpажытай намі ісціны адначасова есць і пункт павароту гіст. руху да новай ісціны і новых каштоўнасцей. Прызнаючы ролю асобы і гіст. дзеячаў у развіцці грамадства, Б. разам з тым звяртаў увагу на вызначальную ролю народа, яго матэрыяльнай і духоўнай творчасці ў грамадскім прагрэсе. Асвятленне асн. этапаў айчыннай гісторыі ен заўседы звязваў з прагрэсам дэмакр. пераўтварэнняў грамадства, з пункта погляду руху гіст. прагрэсу да народаўладдзя і прызнання унікальнай каштоўнасці працоўнага чалавека. У адпаведнасці з высакароднай праграмай гуманізацыі грамадскіх адносін і барацьбой за роўныя магчымасці працоўных людзей для творчага самавыяўлення Б. крытыкаваў манархічныя канцэпцыі гісторыі М. М. Карамзіна, кансерватыўныя ідэалы славянафільства, ідэалізацыю капіталіст шляху развіцця ліберальнай часткай заходнікаў

Літ. спадчына Б., яго філасофскія, гіст. і гуманістычныя погляды паўплывалі на станаўленне бел. грамадска-паліт. думкі і л-ры. Рэмінісцэнцыі яго ідэй выявіліся ў дэмакр. публіцыстыцы 1840—50-х гадоў (Р. Падбярэзскі, Ф. Савіч), у рэв-дэмакратычных поглядах К. Каліноўскага, Ф Багушэвіча і іх паслядоўнікаў Газ. «Минский листок» спасылалася на думкі Б. пры абгрунтаванні прынцыпаў рэалізму і народнасці, сац.-гістарычнай абумоўленасці мастацкай культуры, яе высокага грамадскага прызначэння. Аднак у гэтай газеце акцэнтавалася ўвага пераважна на агульнадэмакр. ідэях Б., што не супярэчыла яе ліберальна-народніцкім тэндэнцыям. Супрацоўнік газеты Д. Д. *Бохан* адзначаў эвалюцыю поглядаў Б. ад халоднай абстрактнасці германскіх філас. сістэм да вывучэння грамадскіх навук з мэтай падрабязнага аналізу сац. умоў, пры якіх магчыма «справядлівае размеркаванне даброт паміж усімі людзьмі», даследаванне разумных асноў грамадскага жыцця (2.5.1900). Больш радыкальная газ. «Северо-Западный край» спасылалася на «Ліст да Гогаля» Б. для абгрунтавання неабходнасці сацыяльна-паліт. рэформ (22 — 24.9.1903), надрукавала арт. «Бялінскі пра Тургенева» (3.9.1903), складзены з урыўкаў рэцэнзіі Б. і яго арт. «Погляд на рускую літаратуру 1847 г.». Гэта газета нярэдка спасылалася на грамадска-паліт. і эстэтычныя погляды Б. ў літ. і грамадскай барацьбе з самадзяржаўем. Газета «Минский курьер» у арт. М. Каралицкага «В. Р. Бялінскі» (31.5.1908) адзначыла, што спадчына Б. стала найвялікшым дасягненнем літ. і грамадскай думкі, яе «краевугольным каменем». На сацыяльна-паліт. і літ. канцэпцыю Б. абапіраліся крытыкі і публіцысты газ. «Наша ніва» для абгрунтавання дэмакр. праграмы бел. нац. адраджэння (21.6.1912). У гэтай газеце і ў "Зборніку «Нашай нівы» (1912. № 1) друкаваўся ў перакладзе на бел. мову ўрывак з арт. Б. «Літаратурныя мары», у якім гаварылася пра 2 дарогі для кожнага пісьменніка і чалавека· альбо ахвярнае служэнне радзіме і народу дзеля дабра і праўды, альбо дастасаванне да «грашовага мяшка» дзеля ўзбагачэння і фальшывай славы. Гістарызм светапогляду Б., яго дэмакратызм і гуманізм, ахвярнае служэнне радзіме, народу і л-ры паўплывалі на жыццевы лес і грамадска-паліт. погляды Я. Купалы, Я. Коласа, Цёткі, М. Багдановіча, М. Гарэцкага, публіцыстаў газ. «Наша ніва» (С. Палуян, Л. Гмырак і інш.). У арт. «Новая інтэлігенцыя» (1914) Багдановіч адзначыў ролю Б. ў станаўленні перадавой грамадскай думкі Расіі, Беларусі, Украіны. Прагрэсіўны рус. друк на Беларусі (газеты «Минский курьер», «Голос провинции», «Окраина», «Бобруйские отклики» і інш.) папулярызаваў літ. і філасофскую спадчыну Б. Газета «Минский голос» пісала пра яго як аднаго з «герояў абуджэння рускай грамадскай думкі», як прыклад таго, да якой вышыні «прыгажосці духу і мыслі» можа падняцца чалавек «незвычайна яснага, строга паслядоўнага розуму, палкага імкнення да ісціны і непадкупнай арганічнай сумленнасці», тонкага эстэт. густу (1.6.1911). Газета *«Полесье»* называла яго тытанам духу і думкі, які ўсе свае жыцце аддаў «пакутным і прыгнечаным», служыў «ідэалам красы і гармоніі чалавечага жыцця» (18.5.1910). У арт. «Памяці В. Р. Бялінскага» (Полесье. 1911 31 мая) ганарылася пра яго як «вялікага пакутніка рускай літаратуры», які ў змрочную эпоху Мікалая І звяртаўся на ўвесь голас да народа, і за адно толькі публічнае чытанне яго «Ліста да Гогаля» грамадскіх дзеячаў абвяшчалі «злачынцамі» і пасылалі на катаргу. Лекцыі пра жыцце і светапогляд Б. чыталіся ў грамадска-культурных т-вах розных гарадоў Беларусі ў 1911—12.

Пасля Кастр. рэвалюцыі прапаганда

спадчыны Б. спрыяла станаўленню літаратурнай, гіст. і філас. думкі Беларусі. Яго ідэі сталі важкімі доказамі для абгрунтавання дыялектыкі і гістарызму ў поглядах на грамадства і культуру. Не адразу спасцігалася арыгінальнасць светапогляду Б. У манаграфіі «В. Р. Бялінскі. Яго філасофскія, эстэтычныя і крытычныя погляды» (Мн., 1936) С. І. Карабан, аддаючы належнае яму як «геніяльнаму мастацтвазнаўцу» і тэарэтыку рэалізму, аднабакова разглядаў філас. і гіст. погляды Б. як паступовы пераход ад ідэй Фіхтэ і Шэлінга да ідэаліст. дыялектыкі Гегеля. Пазней гэты даследчык, наадварот, перабольшваў паслядоўнасць матэрыяліст. светапогляду Б. (ЛіМ. 1946. 15 чэрв.). Правільна раскрыта эвалюцыя светапогляду Б. ад ідэаліст. асветніцтва да арыгінальнага матэрыяліст. бачання гісторыі і культуры ў святле рэв.-дэмакр. ідэалогіі ў артыкулах М. К. Дабрыніна «Прынцыпы крытыкі В. Г. Бялінскага» (Там жа. 1936. 11 і 22 сак.) і Я. Шарахоўскага «В. Р. Бялінскі і народнасць літаратуры» (Полымя рэвалюцыі. 1936. № 6). У тым жа кірунку разглядалася яго спадчына ў арт. А. Ісаева «Вялікі рускі крытык» (Звязда. 1938. 9 чэрв.), А. Маслоўскага «Вялікі крытык-рэвалюцыянер» (Чырвоная змена. 1938. 6 чэрв.), у выступленнях да 90-годдзя з дня смерці Б. (1938). У сувязі са 100-годдзем з дня смерці Б. (1948) пра яго творчасць і светапогляд апублікаваны перадавіцы ў газетах «Звязда», «ЛіМ» і інш., юбілейныя артыкулы Ю. Пшыркова, Ю. Васільева, В. Сцяпанава, М. Іаўчука і інш. Аналізу філас. поглядаў Б. прысвяціў сваю манаграфію В. Сцяпанаў (1959). На Беларусі выйшлі зборнікі артыкулаў Б. на рус. (Мн., 1938) і бел. (Мн., 1939) мовах, а таксама яго «Выбраныя творы» на рус. (Мн., 1947) і бел. (Мн., 1949) мовах. У 1976 Ю. Пшыркоў апублікаваў зборнік арт. Б. пра творчасць класікаў рус. л-ры са сваёй прадмовай і каментарыямі, у якіх падкрэсліў гіст. значэнне яго спадчыны. У 1940—70-я гады на Беларусі выйшла больш за 50 розных публікацый пра Б. У асобных даследаваннях [Рабкоў І. А. Барацьба Бялінскага супраць філасофскага ідэалізму славянафілаў (40-я гады XIX ст.). Мн., 1962; Сцепанішчаў С. С. Развіццё грамадскай думкі ў працах рускіх рэвалюцыянераў-дэмакратаў. Мн., 1975] былі дапушчаны схематызм і фактычныя недакладнасці, перабольшанне матэрыяліст. і атэістычных тэндэнцый у яго творчасці.

*Тв.:* Полн. собр. соч. Т. 1—13. М., 1953—59; Собр. соч. Т. 1—3. М., 1948.

*Літ.:* Плеханов Г. В. Белинский и разумная действительность; В. Г. Белинский; О Белинском // Плеханов Г. В. Избранные философские произведения. М., 1958. Т. 4; Поляков М. Виссарион Белинский. М., 1960; Поссе В. С. Неопубликованная рукопись Виссариона Белинского // Неман. 1968. № 1; Букчин С. «Посмотрим, что еще скажут сами белорусы» // Букчин С. ...Народ, издревле нам родной. Мн., 1984. *У. М. Конан.*

**БЯЛО́Ў** Павел Аляксеевіч [6(18).2.1897, г. Шуя Уладзімірскай губ., цяпер Іванаўскай вобл.— 3.12.1962], удзельнік вызвалення Беларусі ад ням.-фаш. захопнікаў у Вял. Айч. вайну, ген.-палк. (1944). Герой Сав. Саюза (1944). У Чырв. Арміі з 1918. Удзельнік грамадз. вайны. Скончыў Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1933). У Вял. Айч. вайну кав. корпус пад яго камандаваннем прымаў удзел у абароне Масквы, 5 месяцаў змагаўся ў тыле ворага на тэр. Смаленскай вобл. З чэрв. 1942 камандуючы 61-й арміяй, якая прайшла баявы шлях ад Арла да Берліна, фарсіравала Дняпро на Беларусі, вызваляла Калінкавічы, Мазыр, Пінск, Кобрын, Брэст. Да 1955 у Сав. Арміі, камандуючы войскамі шэрага ваен. акруг. Дэп. Вярх. Савета СССР у 1946—62. Яго імем названы вуліцы ў Брэсце, Калінкавічах, Пінску, Шуі.

П. А. Бялоў.

**БЯЛО́Ў** Рыгор Андрэевіч [н. 29.9(12.10).1901, с. Сара Алатырскага пав. Сімбірскай губ., цяпер Сурскі р-н Ульянаўскай вобл.], удзельнік вызвалення Беларусі ад ням.-фаш. захопнікаў у Вял. Айч. вайну, Герой Сав. Саюза (1944), ген.-лейт. (1953). У Чырв. Арміі з 1920. Удзельнік грамадз. вайны. Скончыў Ваенна-паліт. акадэмію імя Леніна (1930), Вышэйшыя акад. курсы пры акадэміі Генштаба (1947). У Вял. Айч. вайну з ліп. 1942 на Бранскім, Варонежскім, Паўд.-Зах., Цэнтр., Бел., 1-м Бел. франтах. 16-я гвардзейская кав. дывізія пад яго камандаваннем вызначылася восенню 1943 у баях пры вызваленні Чарнігава, фарсіраванні Дняпра на Гомельшчыне, пры ліквідацыі Рэчыцкай групоўкі праціўніка і вызваленні г. Мазыр. Да 1962 у Сав. Арміі. Аўтар кн. «Шлях мужнасці і славы» (3 выд. Уфа, 1985).

**БЯЛЫ́НІЦКАЕ ПАТРЫЯТЫ́ЧНАЕ ПАДПОЛЛЕ** ў Вялікую Айчынную вайну. Дзейнічала з ліп. 1941 да кастр. 1943; з сак. 1943 пад кіраўніцтвам Бялыніцкага падп. РК КП(б)Б. Група ў Бялынічах налічвала больш за 20 чал. (кіраўнікі І. С. Корзун, Л. У. Бабіч), група ў в. Вял. Трылесін Бялыніцкага р-на — 10 чал. (кіраўнікі І. А. Марозаў, У. В. Лапухін). Падпольшчыкі вялі агітацыю сярод насельніцтва, С. І. Старавойтаў і У. С. Талан, якія працавалі на радыёвузле акупантаў, прымалі, размнажалі і распаўсюджвалі зводкі Саўінфармбюро. Трымалі сувязь з партызанамі, перадалі ім 4 кулямёты, каля 50 вінтовак, вял. колькасць патронаў, медыкаментаў, паведамлялі звесткі пра варожыя гарнізоны, зрывалі вываз моладзі на катаргу ў Германію. Разам з партызанамі падпольшчыкі ў маі 1943 здзейснілі дыверсію на збожжаскладзе, у вер. 1943 разграмілі гарнізон акупантаў у Бялынічах. Падпольная група в. Вял. Трылесін перад адходам у партыз. атрад здабыла ручны кулямёт, 23 вінтоўкі, 2 скрынкі гранат. У в. Вял. Трылесін у гонар падпольшчыкаў пастаўлены абеліск.

*А. Б. Рогаў.*

**БЯЛЫ́НІЦКІ КЛЯ́ШТАР КАРМЕЛІ́ТАЎ.** Існаваў у 1624—1832 у г. п. *Бялынічы.* Заснаваны Л. І. Сапегам. Атрымаў фундушавыя вёскі Вугольшчына, Царковішча, Цяхціц (у 1667 меў 30 дымоў). Першыя драўляныя будынкі кляштара ў 1742 згарэлі, каменныя пабудовы ў 1742—61. У 1763, калі ўласнікамі Бялыніч былі Агінскія, асвячоны касцёл Успення (Ушэсця Маці Боскай). Прыёр кляштара П. Пятроўскі. Пасля пажару 1859 касцёл рэстаўрыраваны. Уяўляў сабою 3-нефавую базіліку, сцены размаляваны альсэка сюжэтнымі кампазіцыямі, 9 алтароў аздоблены разьбой і лепкай (майстры: маляры Шульц і Слудзінскі, тынкоўшчык Себасцьян, арганны майстар А. Мацэвіч, злотнік Сліжык, ліцейшчык Пігарэвіч). Будынак кляштара Т-падобны ў плане, 2—3-павярховы, унутры сцены таксама размаляваны. У сярэдзіне 17 ст. пры кляштары працавала друкарня. У касцёле знаходзіўся вядомы з 1634 цудатворны абраз Маці Боскай, які ў 1655 з-за ваеннай пагрозы перанесены ў Ляхавіцкі замак, вернуты ў Бялынічы пры садзейнічанні кн. Алены Агінскай у сярэдзіне 18 ст., у 1761 адбылася яго каранацыя (кароны з гербамі Сапегаў і Агінскіх асвячоны ў Рыме папам Бенядзіктам XIV). З таго часу Б. к. к. стаў буйным цэнтрам рэлігійнага жыцця ўсх. Беларусі, пачалося масавае паломніцтва вернікаў да цудатворнага абраза. Тут пастаянна жыў папскі нунцый, адбываліся ўрачыстыя фэсты з працэсіямі; існаваў аркестр. У касцёл·хадзілі вернікі праваслаўнага і каталіцкага веравызнанняў. Пасля закрыцця кляштара і спробы ў 1867 зачыніць касцёл 11.4.1876 ён асвячоны ў праваслаўную царкву Раства Багародзіцы. У 1877 у Б. к. к. пераведзены Тупічаўскі мужчынскі манастыр. Пасля 1930 будынак касцёла прыстасаваны пад клуб, потым склад, у 1960-я гады знесены. Корпус кляштара ўзарваны ў 1970-я гады. Лёс абраза Маці Боскай невядомы. *А. А. Ярашэвіч.*

**БЯЛЫ́НІЦКІ РАЁН.** Размешчаны на ПнЗ Магілёўскай вобл., у верхнім цячэнні р. Друць. Пл. 1,4 тыс. км$^2$, насельніцтва 52,1 тыс. чал. (1990). Цэнтр — г. п. *Бялынічы.* Большая частка раёна размешчана на Цэнтральнабярэзінскай раўніне, невялікі ўчастак на ПнУ — на Аршанска-Магілёўскай раўніне. Па тэр. раёна працякаюць р.

Друць з прытокамі Вабіч, Няропля, Малыш і інш., р. Клява; ёсць азёры Чорнае, Заазерскае, Падазерышча, Карманоўскае, гідралагічны заказнік Заазер'е. 39 % тэр. займаюць лясы. Асноўныя аўтадарогі: Магілёў — Бялынічы — Беразіно — Мінск, Магілёў — Круглае. Праходзіць чыг. Магілёў — Асіповічы.

Раён утвораны 17.7.1924. Да 23.7.1930 уваходзіў у Магілёўскую акр., з 15.1. 1938 у складзе Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Акупанты знішчылі каля 2 тыс. чал. цывільнага насельніцтва, спалілі разам з жыхарамі вёскі Брэнькаў, Вугольшчына, Галоўчын, Заазер'е, Малінаўка, Пільшычы, Сныткі, Сцефанова (увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь). Дзейнічалі падп. райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ, партыз. фарміраванні Бялыніцкай ваенна-аператыўнай групы, а таксама партыз. брыгады 1-я Клічаўская, 2-я Клічаўская, 5-я Клічаўская, 3-я Бярэзінская, 6-я Магілёўская, 8-я Круглянская, 130-я «Помста», «Чэкіст», 1, 3, 5, 61-я; партыз. палкі 113-ы, 121-ы імя А. М. Касаева, 208-ы імя Сталіна, 277-ы, «Трынаццаць»; асобныя партыз. атрады 1, 5, 10, 11, 12, 13, 20, 31, 60-ы імя Ф. М. Сядлецкага, 61, 115, 278-ы, «Слаўны». Выдавалася падп. газ. «Народные мстители». У 1943 партызаны здзейснілі баявыя аперацыі супраць сістэмы ням.-фаш. гарнізонаў, у т. л. і на тэр. раёна (гл. *Бялыніцкія аперацыі 1943*). У 1941—43 партыйна-камсамольскае падполле аб'ядноўвала 2 групы (больш за 30 чал.) — у Бялынічах і в. Вял. Трылесін. Раён вызвалены ў канцы чэрв. 1944 войскамі 2-га Бел. фронту.

У раёне (1990) 202 населеныя пункты, 8 сельсаветаў: Вішоўскі, Галоўчынскі, Запольскі, Ланькаўскі, Лебядзянкаўскі, Машчаніцкі, Цяхцінскі, Эсьмонскі. У эканоміцы раёна вядучае месца належыць с.-г. вытворчасці (12 калгасаў, 6 саўгасаў). Найбольшыя прадпрыемствы: масласырзавод (у складзе Магілёўскага з-да), крухмальны з-д, хлебазавод, райбыткамбінат, лясгас. У раёне працуюць СПТВ механізацыі і меліярацыйных работ, 9 сярэдніх, 16 васьмігадовых, 25 пач. школ, дзіцяча-юнацкая спартыўная і музычная школы, 18 дашкольных устаноў, Дом піянераў і школьнікаў, 36 клубных, 42 бібліятэчныя ўстановы, 44 кінаўстаноўкі (у т. л. 42 стацыянарныя), 6 бальніц, 19 фельчарска-акушэрскіх пунктаў. Выдаецца раённая газ. «Зара над Друццю».

На тэр. раёна найбольш значныя археал. помнікі: Вугольшчына, Дальні, Дзевашычы, Курганне, Малы Кудзін, Монеўка, Прыбар, Цяхцін, Эсьмоны. Брацкія магілы сав. воінаў і партызан, што загінулі ў Вял. Айч. вайну, у вёсках Аксенькавічы, Антонава Буда, Асавец, Асман-Касаева, Вішоў, Вялікая Машчаніца, Вялікі Нежкаў, Галоўчын, Глыбокі Брод, Заазер'е, Заполле, Ізбішча, Каліноўка, Ланькава, Малы Кудзін, Навасёлкі, Пільшычы, Прыбар, Сцёхава, Сякерка, Цяхцін, Чырвоная Слабада, Эсьмоны; магіла сав. воінаў каля в. Сурды; магілы ахвяр фашызму ў вёсках Вялікі Трылесін, Лічынка, Малінаўка, Эсьмоны, на месцы спаленай в. Сцефанова (за 3 км ад в. Прыхабы). Помнікі: землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну (у вёсках Алешкавічы, Вішоў, Вялікі Трылесін, Галоўчын, Заполле, Іскра, Камяніца, Ланькава, Навасёлкі, Цяхцін, Эсьмоны); У. І. Леніну (в. Навасёлкі); Героям Сав. Саюза А. М. *Касаеву* (за 2 км на ПнУ ад в. Асман-Касаева) і С. Р. Церашковічу (в. Галоўчын); на месцы гібелі Героя Сав. Саюза Б. Л. Хігрына (в. Вослiўка); камсамольцам-падпольшчыкам (в. Вялікі Трылесін).

Сярод ураджэнцаў раёна жывапісец-пейзажыст В. К. *Бялыніцкі-Біруля*, вучоны ў галіне гігіены і санітарыі, чл.-карэспандэнт АМН СССР З. К. Магілеўчык (в. Галоўчын) і інш.

БЯЛЫНІЦКІ РАЕН

**БЯЛЫ́НІЦКІ-БІРУ́ЛЯ** Аляксей Андрэевіч [24.10(5.11).1864, в. Бабкоў Аршанскага пав.— 18.6.1937], вучоны-натураліст, падарожнік. Сваяк мастака В. К. *Бялыніцкага-Бірулі*. Скончыў гімназію ў Вязьме (1886), прыродазнаўчае аддзяленне фізіка-матэматычнага ф-та Пецярбургскага ун-та (1891). З 1893 да канца жыцця працаваў у Заалагічным музеі ў Пецярбургу. У 1900—03 прыняў удзел у Палярнай экспедыцыі на чале з геолагам і географам Э. В. Толем, у ходзе якой упершыню апісаў расліннае покрыва мыса Чэлюскін — крайняга паўн. пункта Азіі, даследаваў жывёльны і раслінны свет Новасібірскіх астравоў.

*Літ.:* Грыцкевич В. П. От Немана к берегам Тихого океана. Мн., 1986. С. 266—268. *В. П. Грыцкевіч.*

**БЯЛЫ́НІЦКІ-БІРУ́ЛЯ** Вітольд Каятанавіч [17(29).2.1872, сядзіба Крынкі Аршанскага пав., цяпер Бялыніцкі р-н — 18.6.1957], беларускі і рускі жывапісец-пейзажыст. Нар. мастак БССР (1944) і РСФСР (1947), акад. жывапісу (1908), ганаровы акад. АН БССР (1947), правадз. чл. Акадэміі мастацтваў СССР (1947). Чл. Т-ва перасоўных выставак (з 1904), Т-ва імя А. Куінджы (з 1909). Вучыўся ў Кіеўскай рысавальнай школе М. І. Мурашкі (1885—89) і Маскоўскім вучылішчы жывапісу, скульптуры і дойлідства (1889—96) у С. А. Каровіна, М. В. Неўрава, І. М. Пранішнікава, В. Дз. Паленава. Вялікі ўплыў на станаўленне яго як мастака зрабіў І. І. Левітан. На пачатку творчасці пісаў пераважна лірычныя пейзажы. У аснове кожнага з іх — увасоблены ў жывапісе роздум пра бясконца цудоўную родную прыроду. Найбольш вядомыя раннія палотны: «З ваколіц Пяцігорска» (1892), «Вясна ідзе» (1899; 1-я прэмія Маскоўскага т-ва аматараў мастацтваў), «Веч-

ныя снягі» (1901; залаты медаль на Каўказскай юбілейнай выстаўцы), «У канцы зімы» (1907), «Час цішыні» (1909; залаты медаль на Мюнхенскай міжнар. выстаўцы), «Зімовы сон» (1911; бронзавы медаль на 6-й міжнар. выстаўцы 1912 у Барселоне), «Вясна» (1911), «Ізумруд вясны» (1915) і інш. Асабліва ўлюбены мастаком вобраз вясны (усяго прысвяціў ей каля 200 палотнаў, у назвах 120 карцін выкарыстаў слова «вясна») асацыраваўся з урачыстым абуджэннем прыроды ад працяглага сну, вызваленнем зямлі з ледзянога палону холаду і змроку. Ва ўмовах абвостранага сац. процiборства ў першыя дзесяцігоддзі 20 ст. паміж сіламі прагрэсу і рэакцыі гэты вобраз праецыраваўся на тагачаснае расійскае грамадства і ўспрымаўся як сімвал немінучага трыумфу дабра над злом, святла над цемрай. У сав. мастацтва прыйшоў сталым майстрам, прадаўжальнікам лепшых традыцый рус. пейзажнага жывапісу канца 19 — пач 20 ст. Адмоўна ставіўся да дэкадэнцкіх плыняў у мастацтве, выступаў за развіццё рэаліст. кірунку. У 1918 на сваёй дачы «Чайка» ў Цвярской губ. Б.-Б. арганізаваў «Вольныя дзяржаўныя мастацкія майстэрні» для навучання мясц. дзяцей мастацтву і рамяству, пазней удзельнічаў у стварэнні аб'яднання мастакоў «Ізограф» і Асацыяцыі мастакоў рэв. Расіі Новае жыццё падказвала новыя тэмы і вобразы. Былі напісаны карціна «Люты ў Маскве. Бой каля Нікіцкіх варот» (1923), эцюды, якія адлюстроўвалі першыя спробы рэканструкцыі сельскай гаспадаркі (1930), будаўніцтва «Азоўсталі» (1934). Пад уражаннем паездак у Запаляр'е Б.-Б. стварыў карціны пра веліч і суровасць паўн. прыроды, індустрыяльнае асваенне краю: «Хібіны» (1933), «Кіраўскі апатытавы руднік» (1937) і інш. Маляваў пейзажы мясцін, дзе бывалі А. С. Пушкін («Міхайлаўскае. Домік няні», «Святагорскі манастыр», абедзве 1935—36; «Асеннія дні. Алея Керн», 1952), Л. М. Талстой («Ясная Паляна. Від на сяло і сядзібу», 1928), У. І. Ленін («Вялікі дом у Горках зімой», 1924; «Дом Ульянавых у Сімбірску», 1927—35, «Любімая алея Ільіча», 1945). У гады Вял. Айч. вайны стварыў палотны патрыят. гучання· «Чырвоная Армія ў лясах Карэліі», «Па слядах фашысцкіх варвараў», пейзажы сядзібы П. І. Чайкоўскага ў Кліне (усе 1942), серыю арх. пейзажаў для выстаўкі «Шэдэўры рускага драўлянага дойлідства» (1944). Удзельнічаў у арганізацыі мастацкай выстаўкі, прысвечанай 25-годдзю БССР (1944, Масква; 1945, Мінск). У 1947 жыў пад Мінскам, за кароткі тэрмін стварыў тут 29 карцін і эцюдаў, у якіх раскрываў своеасаблівасць бел. прыроды: «Зноў расцвіла вясна», «Беларусь. Пачатак лета», «Зялёны май», «Зазеляненні беларускія бярозкі» і інш. Удзельнічаў у 2-м з'ездзе мастакоў БССР (1948), у сваім выступленні падкрэсліў значэнне для мастацкай творчасці лепшых нац. традыцый роднага народа. Найбольш вядомыя лірычныя пейзажы саа. перыяду. «Лясная рэчка зімой» (1920), «Веснавыя воды» (паміж 1924—35), «Аголеныя бярозкі» (1930), «Лёд прайшоў» (1930), «Задуменныя дні восені» (1932—42), «Лотаць зацвіла» (1940), «Прыцемкі юнага мая» (1943), «Май зазеляneў» (1948), «Дні майскіх навальніц» (1950), «Поўдзень палярнай восені. Хібіны» (1951), «Вясна ідзе» (1957) і інш. Уся творчая спадчына Б.-Б. налічвае больш за 1000 карцін і эцюдаў. Аўтар успамінаў (не апублікаваны) і артыкулаў пра методыку выкладання пейзажа. Творы захоўваюцца ў многіх музеях краін СНД, у т. л. 464 работы ў Дзярж. мастацкім музеі Беларусі, за мяжой, а таксама ў прыватных калекцыях. Імя Б.-Б. прысвоена Бялыніцкаму мастацкаму музею (г. п. Бялынічы), у Магілеве адкрыты аддзел Дзярж. мастацкага музея Беларусі — мастацкі музей В. К. Бялыніцкага-Бірулі (1982); яго імем названы вуліцы ў Магілеве і г. п. Бялынічы.

В К Бялыніцкі-Біруля.

*Тв* Из записок художника // Из творческого опыта. М., 1958 Вып. 4

*Літ* Тарасов Л В К. Бялыницкий-Бируля Народный художник РСФСР и БССР. М; Л, 1949, Жидков Г В К. Бялыницкий-Бируля М, 1953, Туроўніскаў М В К Бялыніцкі-Біруля Мн, 1959; Бялыніцкі-Біруля Альбом-каталог твораў нар. мастака РСФСР і БССР, правадз. чл АМ СССР В. К Бялыніцкага-Бірулі Мн, 1974, Карамазаў В Крыж на зямлі і поўня ў небе Мн., 1991.

*А К Рэсіна*

**БЯЛЫ́НІЦКІЯ АПЕРА́ЦЫІ 1943,** наступальныя баі Магілёўскага партыз. злучэння супраць сістэмы ням.-фаш. гарнізонаў у Бялыніцкім, Быхаўскім, Бярз-

зіискім, Кіраўскім, Клічаўскім р-нах у крас., жн. і вер. 1943 з мэтай іх адначасовага знішчэння; найб. буйныя аперацыі партыз. злучэнняў Беларусі супраць тылавых гарнізонаў праціўніка ў Вял. Айч. вайну.

Першую аперацыю па адначасовым разгроме некалькіх гарнізонаў праціўніка (вёскі Бахань, Глыбокі Брод, Дручаны, Журавок, Забавы, Заполле, Макаўка, Сямікаўка) правялі ў ноч на 13.4.1943 2-я і 5-я Клічаўскія, 3-я Бярэзінская, 6-я Магілёўская партыз. брыгады. Раптоўным ударам партызаны з ходу захапілі абарончыя ўмацаванні ворага, зрабілі засады на магчымых шляхах адыходу акупантаў. 8 варожых гарнізонаў да раніцы 13.4.1943 перасталі існаваць. Партызаны разбурылі 40 бліндажоў і дзотаў, захапілі 3 мінамёты, 16 кулямётаў, 150 вінтовак, аўтаматаў і інш. зброі, амуніцыю, боепрыпасы.

Другую аналагічную аперацыю ў ноч на 26.8.1943 правялі байцы 208-га партыз. палка імя Сталіна, 12, 28, 36, 113, 121, 122-га «За Радзіму», 152, 277, 425, 810-га асобных атрадаў у трохвугольніку в. Паплавы — чыг. ст. Тошчыца (на ўчастку Орша — Жлобін) — г. п. Бялынічы: разграмілі 2 гарнізоны ворага ў вёсках Вяшэўка і Шавярнічы, зроблены напады на ўмацаваныя гарнізоны ў вёсках Гарэнічы, Арэшкавічы, Падсёлы, Паплавы, ст. Нясята, ст. Тошчыца на агульнай пл. больш за 1500 км². Адначасова адбыўся сустрэчны бой 113-га, 121-га партыз. атрадаў і 208-га партыз. палка імя Сталіна з 700-м ахоўным палком гітлераўцаў і прыдадзенымі яму спец. падраздзяленнямі, якія выходзілі на карную аперацыю «Іваноў». Партызаны перахапілі і знішчылі калону аўтамашын з карнікамі, разграмілі штабную роту і адзін батальён, прымусілі карнікаў адступіць. Трэцюю аперацыю партызаны правялі ў ноч на 11.9.1943. У ёй удзельнічалі 208-ы партыз. полк імя Сталіна і 27 атрадаў Бялыніцкай, Бярэзінскай, Быхаўскай, Клічаўскай, Круглянскай, Магілёўскай, Шклоўскай ваенна-аператыўных груп, усяго больш за 4 тыс. чал. Партызаны адначасова атакавалі гарнізоны ворага ў г. п. Бялынічы, вёсках Малая і Вял. Машчаніца, Дашкаўка, Галоўчын, Алешкавічы, Пушча, ваен. гарадку ў в. Салтанаўка і інш., а таксама апорныя пункты каля мастоў цераз рэкі Друць і Аслік (Асліўка) на шашы Магілёў — Мінск. Гарнізон у г. п. Бялынічы (батальён РВА і каля 500 гітлераўцаў) займаў ключавое становішча ў сістэме апорных пунктаў ворага ў міжрэччы Дняпра і Бярэзіны на З ад Магілёва і з'яўляўся гал. плацдармам карных аперацый акупантаў у Бялыніцкім і суседніх з ім раёнах. У сістэму яго абароны ўваходзілі апорныя пункты цераз рэкі Друць і Аслік, дзе знаходзілася каля 80 гітлераўцаў, узброеных артылерыяй, мінамётамі і кулямётамі. Падыходы да ўсіх гарнізонаў прыкрывалі шматлікія дзоты. Больш як 3 гадзіны працягваўся бой за Бялынічы. Вораг упарта супраціўляўся, але партызаны разграмілі гарнізоны ў Бялынічах і каля мастоў, што вызначыла поспех усёй аперацыі. Паўсюдна былі знішчаны казармы, умацаванні, ваен. тэхніка, склады, захоплена шмат стралк. зброі і боепрыпасаў, некалькі соцень галоў буйной рагатай жывёлы і коней, важная дакументацыя праціўніка.

У выніку Б. а. 1943 аб'яднаныя сілы партызан Магілёўскай вобл. раптоўным адначасовым ударам нанеслі ворагу вялікія страты ў жывой сіле і тэхніцы, сарвалі карныя акцыі супраць мірнага насельніцтва, чым выратавалі тысячы жыхароў ад знішчэння, грабяжу і вывазу на катаржныя работы ў Германію, амаль поўнасцю вызвалілі ад акупантаў Бялыніцкі р-н (за выключэннем г. п. Бялынічы) і на некалькі сутак вывелі са строю ўчастак шашы Магілёў — Мінск у раёне Бялынічы і ракадную чыгуначную лінію Магілёў — Жлобін на Пн ад Быхава (гл. карту).

*Літ.:* Всенародное партизанское движение в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944). Т. 1—3. Мн., 1967—82. *У. С. Пасэ.*

**БЯЛЫ́НІЦКІЯ-БІРУ́ЛІ**, шляхецкі род герба «Бялыня» (на блакітным полі белы паўмесяц рожкамі ўгору, паміж імі залаты крыж, вышэй — страла вастрыём угору), уладанні якіх былі ў Віцебскім і Аршанскім паветах.

Першым у дакументах згадваецца Г а ў р ы л а  С я м ё н а в і ч  Б і р у л я, які ў час Лівонскай вайны 1558—83 быў ротмістрам казацкай харугвы ў войску С. Баторыя (1572—81). Магчыма, род паходзіць ад віцебскіх баяр Харковічаў, бо ў 1635 Ян Біруля (верагодна, сын Гаўрылы) названы Харковічам. У Гаўрылы былі яшчэ 3 сыны: Раман, Самуэль і Аляксандр. Ад радавога маёнтка Бялынічы (сучасная в. Бялынавічы Віцебскага р-на) яны зваліся Б.-Б. Валодалі таксама Навасёлкамі каля Бялынавіч, Зачарнiччам, Тулавам і інш. Нашчадкі Самуэля валодалі маёнткамі каля мяст. Бялынічы Аршанскага пав., што парадзіла паданне пра іх паходжанне з гэтых мясцін. Род захаваўся да 20 ст., з яго паходзіць мастак В. К. Бялыніцкі-Біруля.

*Літ.:* Оршанский гербовник. Витебск, 1900. *В. Л. Насевіч.*

**БЯЛЫ́НІЧЫ**, гарадскі пасёлак, цэнтр раёна Магілёўскай вобл. Размешчаны на левым беразе р. Друць, за 44 км ад Магілёва, на шашы Мінск — Магілёў. 6,6 тыс. ж. (1990).

Мясцовасць заселена ў глыбокай старажытнасці, пра што сведчыць стаянка бронзавага веку за 4 км на ПнЗ ад пасёлка. Паводле пісьмовых крыніц Б. вядомы з сярэдзіны 16 ст. як сяло ў Аршанскім пав. Віцебскага ваяв. ВКЛ. У 1577 у складзе маёнтка Цяцерын належалі кн. Стафану Андрэевічу Збаражскаму, які заснаваў тут замак (Белагарадок) і мястэчка. Пасля яго смерці (1585) перайшлі да яго дачкі Барбары, жонкі паляка Г. Танчынскага. У пач. 17 ст. яна прадала частку Б. з воласцю свайму айчыму, канцлеру вял. літ. Льву Іванавічу Сапегу (быў жанаты з удавой кн. Збаражскага). У 1620 былі 331 вулічны і 16 гандл. пляцаў. Уладальнік мястэчка спаганяў з жыхароў грашовы чынш (паводле інвентара 1624—4 тыс. злотых). У 1624 Сапега заснаваў *Бялыніцкі кляштар кармелітаў*, якому падараваў зямлю з некалькімі вёскамі і фальваркам; пры кляштары быў пабудаваны драўляны касцёл. У 1624 коштам малодшага сына Л. І. Сапегі Казіміра Льва алтар касцёла аздоблены серабром, а абраз Маці Боскай — каштоўнымі камянямі. Ён жа заснаваў пры кляштары друкарню (дзейнічала ў сярэдзіне 17 ст.). Бялыніцкі кляштар стаў адным з найбагацейшых на Беларусі. У 1630 у Б. 513 дымоў (двароў). Пасля смерці бацькі (1633) уладальнікам мястэчка стаў К. Л. Сапега — пісар ВКЛ. Пры ім 4.10.1634 Б. нададзена магдэбургскае права. У 1635 Сапега выкупіў у Г. Керлы (нашчадка Збаражскіх) 2-ю частку мястэчка. У ходзе вайны паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай 1654—67 Б. заняты рус. войскам і на працягу некалькіх гадоў знаходзіліся пад загадам рус. адміністрацыі. Паводле Андрусаўскага перамір'я 1667 вернуты ў склад Рэчы Паспалітай. К. Л. Сапега, які не меў нашчадкаў, у 1656 завяшчаў Б. свайму далёкаму родзічу Крыштофу Сапегу і Ганне Сапяжанцы — жонцы С. Нарушэвіча. У 1662 Нарушэвічы сваю частку таксама прадалі Крыштофу. У 1665 маёнтак трапіў да сына Крыштофа — Андрэя Францішка. Пасля смерці апошняга (1681) яго брат Уладзіслаў у 1685 прадаў мястэчка Катарыне — удаве віленскага ваяводы Міхала Казіміра Радзівіла. Б. паслядоўна належалі яе сынам Ежы Юзафу (п. у 1689) і Карлу Станіславу Радзівілам, а потым здадзены ў арэнду Яну Казіміру Лендарфу. У 1733 яго ўдава Абрамовіч выйшла замуж за кн. Марцыяна Міхала Агінскага, у выніку маёнтак перайшоў у фактычнае валоданне Агінскіх. Пасля смерці Марцыяна Міхала (1750) Б. належалі яго старэйшаму сыну Ігнацыю і жонцы апошняга Алёне. У 1756 — 61 кармеліты пабудавалі тут вял. мураваны касцёл у форме крыжа; інтэр'еры касцёла былі размаляваны фрэскамі. У 1761 княгіня Алёна набыла для касцёла цудатворны абраз Дзевы Марыі, і сюды пачалося масавае паломніцтва вернікаў; мястэчка сталі называць «Рускай Чанстаховай». У 2-й пал. 18 ст. тут дзейнічаў таксама невялікі жаночы кляштар марыявітак, дзе быў пансіянат (навуч. установа) для шляхецкіх дачок. Праз Б. праходзіў гандл. шлях, які звязваў цэнтр Беларусі з Расіяй. У 18 ст. ў мястэчку дзейнічаў мытны пункт, падпарадкаваны гал. мытні ў Магілёве. Паводле 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) Б. далучаны да Расійскай імперыі, увайшлі ў склад Магілёўскага пав. У 1777 у мястэчку дзейнічалі касцёл кармелітаў, уніяцкая царква, яўрэйская школа. Штогод адбываліся 4 кірмашы. У 1785 — 831 ж., 108 двароў, існаваў млын. У Айч. вайну 1812 пры наступленні французскай і ў час контрнаступлення рус. армій Б. знаходзіліся ў зоне ваен. дзеянняў і

панеслі вял. страты. У 1823 — 556, у 1827 — 1085 жыхароў. Тут было шмат заезных дамоў, а ў час кірмашоў прыезджыя размяшчаліся амаль ва ўсіх дамах мястэчка. У 1846 у Б. 940 жыхароў. З 1855 дзейнічала піваварня. У час вял. пажару ў 1859 амаль усе дамы і касцёл згарэлі. Пасля скасавання прыгону — цэнтр воласці Магілёўскага пав. Мястэчка хутка адбудавалася, у 1861 тут 1945 жыхароў. У 1864 адкрыта 2-класнае нар. вучылішча, у якім у 1889 навучалася 50 хлопчыкаў і 12 дзяўчынак, у 1907 — 144 хлопчыкі і 22 дзяўчынкі. У 1870 пачала працаваць крупарушка, у 1875 — вінакурны з-д. У 1876 каталіцкі кляштар пераўтвораны ў праваслаўны мужчынскі манастыр. З 1877 кірмаш у Б. праводзіўся 1 раз на год (8 верасня). У 1880 у мястэчку 895 ж., 279 драўляных дамоў, 3 праваслаўныя царквы (з іх 2 мураваныя), 3 малітоўныя школы, бальніца, аптэка, вінакурня (з 1895 з паравой машынай) і цагельня, млын, крупарушка. У 100 гаспадарках месцачкоўцаў пралі лён і пяньку, выраблялі тканіны. Частка жыхароў займалася кавальскім і кравецкім промысламі. Паводле перапісу 1897 у Б. 2215 жыхароў. У час рэвалюцыі 1905—07 месцачкоўцы напалі 8.9.1906 на паліцэйскі канвой з мэтай вызваліць арыштаваных, 6 жыхароў былі забіты. У 1909 у Б. 417 дамоў, адчынена бібліятэка. Мястэчка мела 894 дзес. зямлі.

Пасля Лют. рэв. 1917 створаны Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў. У ліст. 1917 устаноўлена сав. ўлада. З канца лютага да ліст. 1918 Б. заняты войскамі кайзераўскай Германіі. З 1.1.1919 Б. ў складзе БССР, у лютым 1919 адышлі да РСФСР. З сак. 1924 вернуты ў БССР, з 17.7.1924 цэнтр раёна. У маі 1924 створана кааператыўнае т-ва, у 1925 — с.-г. арцель; дзейнічала крэдытнае т-ва. У 1924 адкрыты нар. дом, аптэка, бальніца, б-ка, хата-чытальня, 4-гадовая школа пераўтворана ў 7-гадовую, у 1925 арганізавана школа сял. моладзі; неўзабаве з'явіліся першая кінаўстаноўка, радыёпрыёмнік. У 1926 у Б. 2425 жыхароў. У 1927 створана метэаралагічная станцыя. У 1928 пачала дзейнічаць электратурбіна, мястэчка атрымала электрычнасць; працавалі млын, лесапільня, сукнавальня, непадалёку ў лесе была смалакурня. У 1929 арганізаваны калгас «Чырвоны барацьбіт» (аб'ядноўваў 118 гаспадарак, меў 1384 га зямлі); створана Бялыніцкая МТС, палітаддзел якой выпускаў у 1933—34 шматтыражку «Камунар». Дзейнічалі масларавод, сталярнамэблевы камбінат, швейная, шавецкая і кавальская арцелі, хлебазавод, друкарня. 8.1.1932 пачала выходзіць раённая газ. «Чырвоны калектывіст». У 1937 у райцэнтры было 87 тэлефонных апаратаў, у пач. 1941 пабудаваны радыёвузел. Дзейнічалі бальніца, амбулаторыя, дзіцячая кансультацыя, яслі, станцыя хуткай мед. дапамогі, аптэка, сан.-эпідэміялагічная станцыя. Працавалі 2 сярэднія школы, б-ка, Дом культуры. З 27.9.1938 Б.— гарадскі пасёлак. У Вял. Айч. вайну ў пачатку ліп. 1941 Б. апынуліся на напрамку гал. ўдару 2-й танкавай групы ням.-фаш. войск. Тут на рубяжы р. Друць трымалі абарону перадавы атрад ст. лейт. А. П. Валачка з 172-й стралк. дывізіі, рота лейт. В. Ф. Чуракова з 53-й стралк. дывізіі 61-га стралк. корпуса, артыл. дывізіён капітана Б. Л. *Хігрына* 462-га артыл. палка разам з часцямі прыкрыцця 20-га механізаванага і 4-га паветр.-дэсантнага карпусоў. Гарадскі пасёлак пераходзіў з рук у рукі, сав. воіны нанеслі праціўніку значныя страты ў жывой сіле і тэхніцы. 6.7.1941 Б. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У гар. пасёлку і раёне дзейнічала *Бялыніцкае патрыятычнае падполле,* партыз. фарміраванні. У ноч на 11.9.1943 партызаны і падпольшчыкі нанеслі магутны ўдар па варожым гарнізоне ў Б. (гл. *Бялыніцкія аперацыі 1943*). Вызвалены 29.6.1944 воінамі 29-й арміі 2-га Бел. фронту ў ходзе *Мінскай аперацыі 1944.*

Пасля вайны аднаўляліся і ўзводзіліся новыя прадпрыемствы, вялося жыллёвае будаўніцтва. У 1972 да гар. пасёлка далучана в. Новы Шлях, у 1977 — вёскі Бярозаўка, Задруцкая Слабада, пас. Тарфяны. У Б. дзейнічаюць масласырзавод, хлебазавод, крухмальны з-д, раённае аб'яднанне Сельгастэхнікі, рамонтна-механічныя майстэрні. Гар. пасёлак — цэнтр саўгаса «Бялынічы» і лясніцтва. Ёсць 2 сярэднія школы, школа рабочай моладзі, муз. і дзіцячая спарт. школы, 3 дашкольныя ўстановы, СПТВ механізацыі сельскай гаспадаркі, Дом культуры, Дом піянераў і школьнікаў, кінатэатр, 2 б-кі, бальніца. У 1970 адкрыты мастацкі музей імя В. К. *Бялыніцкага-Бірулі.* Выходзіць раённая газ. «Зара над Друццю».

У гар. пасёлку брацкія магілы сав. воінаў і партызан (сярод пахаваных Герой Сав. Саюза Хігрын), магіла ахвяр фашызму (за 1,5 км); помнікі: Вызвалення, Бялыніцкаму-Бірулю.

Б.— радзіма Героя Сав. Саюза І. В. *Свідзінскага,* вучонага-аграхіміка, акад. АН БССР М. К. Малюшыцкага (1872—1929), бел. пісьменніка і літаратуразнаўцы І. З. Шарахоўскага (1908—73).

*Літ.:* Рыбакоў В. В. Бялынічы // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1978. № 2. *М. М. Казлоўская, В. Л. Насевіч.*

**БЯЛЫ́НКАВІЦКІ РАЁН.** Існаваў у БССР у 1924—27. Утвораны 17.7.1924. Знаходзіўся ў складзе Калінінскай, з 9.6.1927 Магілёўскай акруг. Цэнтр — в. *Бялынкавічы.* Пл. раёна 719 км$^2$, 124 населеныя пункты. Нас. 23 448 чал. (на 1.1.1925). Падзяляўся (з 20.8.1924) на 10 сельсаветаў: Батаеўскі, Бялынкавіцкі, Бароньказўскі (Барэйкаўскі), Велікаборскі, Гаўрыленскі, Каніцкі, Машаўскі, Мокраўскі (Макранскі), Смолькаўскі, Сялецкі. Скасаваны 4.8.1927, тэр. перададзена ў склад Касцюковіцкага р-на.

**БЯЛЫ́НКАВІЧЫ,** вёска ў Касцюковіцкім р-не, на р. Беседзь. Цэнтр сельсавета і калгаса «Бялынкавічы». За 14 км на ПдУ ад Касцюковіч, 2 км ад чыг. ст. Бялынкавічы. Праз вёску праходзіць шаша Касцюковічы — Сураж (Бранская вобл.). 698 ж., 226 двароў (1992).

Мясцовасць заселена чалавекам у глыбокай старажытнасці, пра што сведчаць знаходкі ў вёсцы крамянёвага наканечніка кап'я і каменнай сякеры. Ва ўрочышчы Лысая Гара (на З ад моста цераз р. Беседзь) і непадалёку ад вусця р. Зубар (на З ад вёскі) выяўлены рэшткі неалітычных паселішчаў. У жал. веку тэр. насялялі балцкія плямёны. У 6—9 ст. уздоўж Беседзі рассяліліся радзімічы, у вёсцы захаваўся іх курганны могільнік (33 насыпы вышынёй 0,2—2,5 м). У пісьмовых крыніцах Б. ўпершыню названы на карце Т. Макоўскага 1613 (выдадзенай М. У. Радзівілам); вёска ўваходзіла ў склад Крычаўскага староства Мсціслаўскага ваяв. ВКЛ. Паводле 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) Б. адышлі да Расійскай імперыі і былі падараваны Р. А. Пацёмкіну. З 1784 Б.— мястэчка ў Клімавіцкім пав. У 1880 Б.— цэнтр воласці; 339 ж., 76 драўляных дамоў, праваслаўная царква, яўрэйская малітоўная школа (таксама драўляная), карчма. 1197 дзес. зямлі належала двараніну І. І. Бараноўскаму, 530 дзес.— жонцы калежскага саветніка Я. П. Шэньшынай; у фальварку дзейнічаў бровар. У 1886 у Б. 51 двор, 292 жыхары. Штогод 15 жн. праводзіўся кірмаш. У 1886 у мястэчку на зямлі, падараванай Бараноўскім, заснавана нар. вучылішча. У 1895—1900 пастаўлены мураваны будынак Свята-Успенскай царквы (разбураны ў 1956—57). Вясной 1890 сяляне Б. і воласці, пакутуючы ад малазямелля, далучыліся да масавага руху за перасяленне на «вольныя» землі ў Сібір і на Далёкі Усход: яны распрадавалі маёмасць і, насуперак процідзеянню ўлад, накіроўваліся ў далёкі шлях. У рэвалюцыю 1905—07 адбыліся хваляванні сярод рабочых бровара. Сав. ўлада ўстаноўлена ў 1917. З крас. 1919 Б. ў Гомельскай губ. РСФСР. З сакавіка 1924 у складзе БССР, з 2.6.1924 у Калінкавіцкім пав. З 17.7.1924 да 4.8.1927 цэнтр *Бялынкавіцкага раёна,* з 20.8.1924 цэнтр сельсавета. У Вял. Айч. вайну са жн. 1941 да вер. 1943 вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У прыбеседскіх лясах паблізу вёскі размяшчаліся базы партыз. злучэнняў і атрадаў. У ноч на 22.4.1943 партызаны 2-й Клятнянскай брыгады ўзарвалі каля Б. чыгуначны мост цераз р. Беседзь, у выніку рух цягнікоў быў спынены на 21 суткі. Вызвалены 27.9.1943 войскамі 269-й стралк. дывізіі (камандзір ген.-маёр А. Ф. Кубасаў) 3-й арміі Бранскага фронту. На франтах загінулі 33 вяскоўцы. З 1956 Б.— цэнтр саўгаса «40 год Кастрычніка», са студз. 1992 — калгаса «Бялынкавічы». У 1970 у вёсцы 725 ж., 197 двароў. У пасляваенны час у вёсцы дзейнічалі хімучастак па перапрацоўцы смалы, якую здабывалі з хваёвых пнёў, хлебапякарня. Існуе бровар, які перапрацоўвае бульбу, буракі, зерне і патаку. У вёсцы сярэдняя школа, дзіцячы сад, Дом культуры, бальніца, інтэрнат для састарэлых, аптэка, сталовая, 2 магазіны. Брацкая магіла сав. воінаў і партызан, помнік землякам, каля будынка

чыг. ст. Бялынкавічы помнік у гонар партызан. *У Р Ламінскі*

**БЯЛЬКЕВІЧ** Іван Кандратавіч [22. 2(6.3).1883, в Варонічы Слонімскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Слонімскі р-н — 18.10.1960], беларускі мовазнавец Скончыў Свіслацкую настаўніцкую семінарыю (1909), БДУ (1925). Настаўнічаў у Слонімскім пав., з 1915 у с. Рудня Камышынскага пав. Саратаўскай губ. У 1919—20 заг. Варонніцкай бел. школы, інспектар бел. школ Слонімскага пав. Са жн. 1920 заг. Бел. аддзела Наркамата асветы БССР, настаўнік у школах Мінска. У пач. 1920-х гадоў член Бел. партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў і сакратар яе ЦК. У 1925—27 выкладчык, дырэктар Мсціслаўскага педтэхнікума. З 1927 выкладчык Белпедтэхнікума ў Мінску, навук. супрацоўнік Інбелкульта і Ін-та мовазнаўства АН БССР. Вывучаў бел. дыялекты, арфаграфію і культуру бел. літ. мовы. Аўтар «Краевага слоўніка ўсходняй Магілеўшчыны» (падрыхтаваны ў 1920-я гады, выд. ў 1970), які з'яўляецца самым поўным зборам усх.-бел. дыялектнай лексікі. 17.2.1930 арыштаваны ДПУ БССР па справе «Саюза вызвалення Беларусі». У ходзе следства вінаватым сябе не прызнаў. Паводле пастановы калегіі АДПУ БССР ад 10.4. 1931 сасланы на 5 гадоў у г. Йашкар-Ала. Працаваў 4 гады на лесасплаве. Потым пераехаў у Данецкую вобл., дзе выкладаў у школах рус. мову і л-ру. У 1948—58 заг. навуч. часткі вучэбнага пункта «Азоўсталь» (г. Жданаў), інжынер-метадыст Жданаўскага філіяла Данецкага вячэрняга буд. тэхнікума. Рэабілітаваны Вярх. судом БССР 19 9.1960. Памер, так і не атрымаўшы дазволу вярнуцца на радзіму.

*Літ:* Германовіч І К Беларускія мовазнаўцы Нарысы жыцця і навук. дзейнасці. Мн , 1985 *У. М Міхнюк.*

**БЯЛЬМО́НТЫ,** Двор Альгердаўшчына, Ахрэмаўцы, былая вёска ў Браслаўскім р-не, на паўд.-ўсх. беразе воз. Дрывяты. За 10 км на ПдУ ад Браслава, 40 км ад чыг. ст. Друя. З 1976 у складзе в. Ахрэмаўцы. У гіст. крыніцах упершыню ўпамінаюцца ў 1748 як уладанне роду Гільзенаў, пры іх атрымалі сваю назву (ад франц. belmont прыгожая гара). У 2-й пал. 18 — пач. 19 ст. ў Б. створаны палацава-паркавы ансамбль, які ўключаў двухпавярховы мураваны палац (меў 33 пакоі), вял. круглую парадную залу, дамашнюю капліцу. Сцены шэрага пакояў будынка былі дэкарыраваны жывапісам. У 1876 тры акварэльныя малюнкі палаца зрабіў Н. Орда. Парк Бяльмонт (пл. 65 га) быў адным з найбуйнейшых рамантычных паркаў Беларусі. У 1768 у Б. пабудаваны філіяльны касцел Ісуса Хрыста, які належаў да Браслаўскай парафіі. У 18 ст. частка бяльмонцкіх уладанняў уваходзіла ў склад Браслаўскага старостава. З 1798 Б.— уладанне графа М. Мануззі, вядомага пры дварах Пецярбурга і Варшавы паліт. авантурыста, які яшчэ ў 1776 пасяліўся на Браслаўшчыне. Паводле інвентара 1798, бяльмонцкаму двару належалі 233 асобы мужчынскага полу, 6 корчмаў. У 1768 у Б. спыняўся з абозам адзін з удзельнікаў Барскай канфедэрацыі Ш. Касакоўскі. 23.6.1812 тут размяшчаўся са штабам камандуючы 1-й Зах. арміяй ген. М. Б. Барклай дэ Толі, 1—3.7.1812 — камандуючы французскім кав. корпусам маршал І. Мюрат. Восенню 1821 у весцы быў раскватараваны Праабражэнскі полк, адбылася сустрэча дзекабрыстаў М. С. Луніна і А. В. Поджыа. У Б. прайшлі дзіцячыя гады мастака, аўтара твораў на гіст. тэмы Я. Траяноўскага (1799—1878). У пач. 19 ст. Б. перайшлі да роду Плятэраў. І. Плятэр — удзельнік паўстання 1830—31 у Польшчы, на Беларусі і ў Літве. І. і Ф. Плятэры сабралі музейную калекцыю, багатую б-ку (у 1-ю сусв. вайну вывезена ў Петраград), перадалі Віленскаму музею старажытнасцей каля 100 каменных свідраваных сякер, знойдзеных у наваколлі Б. У Б. існавала парафіяльная школа (у 1804—30 вучняў, у 1805—10), з 1857 дзейнічаў бровар (у 1900—8 рабочых, паравая машына). У 1-ю сусв. вайну палац Плятэраў разбураны. Пабудаваны пазней драўляны сядзібны дом згарэў у Вял. Айч. вайну. Захаваліся помнікі. курганны могільнік 8—10 ст. (адкрыты і даследаваны ў 1892 Ф. В. Пакроўскім), мураваная капліца Збавіцеля (1858), парк Бяльмонт.

*Літ* Покровский Ф В. Из доисторического быта на славяно-литовской границе Вильна, 1894, Hedemann O. Historja powiatu Brasławskiego Wilno, 1930, Яго ж Graff Manuzzi Wilno, 1935, Букчин С К мечам рванулись наши руки Докум повести. Мн, 1985, Федорук А Т Садово-парковое искусство Белоруссии. Мн., 1989 *К С Шыдлоўскі*

**БЯЛЯ́ВІН** Евель Самуілавіч (3.5.1920, Барысаў — 10.9.1972), Герой Сав. Саюза (1944). У Чырв. Арміі з 1938. Скончыў Мінскі аэраклуб (1937), ваен. школу лётчыкаў (1939). У Вял. Айч. вайну з ліст. 1941 на Паўд., Закаўказскім, Сцяпным, 2-м і 1-м Укр. франтах: камандзір авіязвяна, эскадрыллі бамбардзіроўшчыкаў. Зрабіў каля 300 баявых вылетаў на бамбардзіроўку ваен. аб'ектаў ворага У час баёў на белгародска-харкаўскім напрамку Б. сваей машынай засланіў падбіты самалет камандзіра эскадрыллі, прыняў агонь на сябе, даў яму магчымасць выйсці з небяспечнай зоны, а потым пасадзіў свой пашкоджаны самалет на бліжэйшы аэрадром. У ліку першых сав. летчыкаў у 1945 штурмаваў з паветра Берлін. Пасля вайны да 1972 працягваў службу ў Сав. Арміі, палкоўнік. Яго імем названа вуліца ў Барысаве.

**БЯЛЯ́ЕЎ** Іван Дзмітрыевіч [1810—19.11(1.12).1873], рускі гісторык-славянафіл. З 1852 праф. Маскоўскага ун-та, сакратар Маскоўскага т-ва гісторыі і старажытнасцей расійскіх. Аўтар першай сістэматызаванай працы па гісторыі сялян. Даследаваў пытанні гісторыі Беларусі да 16 ст. У «Гісторыі Полацка ці Паўночна-Заходняй Русі...» прааналізаваў сац. і нац. склад насельніцтва, гісторыю царквы, адміністрацыі Кіеўскай Русі і ВКЛ Паводле яго меркаванняў, славяне пачалі каланізацыю тэр. Беларусі з Ноўгарада. Разглядаючы вечавы лад у Полацку, выказваў ідэю бесканфліктнай садружнасці ўлады і народа. Разглядаў з гісторыка-юрыд. пункту погляду паліт. і побытавую гісторыю. Першы з рус гісторыкаў даў этнагр. апісанне беларусаў, якіх называў крывічамі

*Тв.* Очерк истории Северо-Западного края России Вильна, 1867; Рассказы из русской истории. Кн 4, ч 1 История Полотска или Северо-Западной Руси от древнейших времен до Люблинской унии М , 1872, Крестьяне на Руси М., 1860, 4 изд М., 1903 *А П Грыцкевіч*

**БЯЛЯ́ЕЎ** Мікалай Рыгоравіч (н. 5.6. 1925, в. Круглiца Быхаўскага р-на), поўны кавалер ордэна Славы У Вял. Айч. вайну з сак. 1944 на 1-м Бел. фронце. Камандзір мінаметнага разліку ст. сяржант Б. вызначыўся ў баях на тэр. Польшчы і Германіі. 7.10.1944 у раене Магнушаўскага плацдарма знішчыў кулямёт і рассеяў каля ўзвода пяхоты праціўніка; 31.1.1945 у баях за г. Шверын ліквідаваў 3 варожыя агнявыя кропкі; 16.4.1945 у час прарыву абароны праціўніка і ў баях на Зееласкіх вышынях знішчыў 3 кулямётныя пункты, больш за 25 гітлераўцаў, у баях за Берлін — 2 варожыя кулямёты з разлікамі. Жыве і працуе ў г. Ужгарад.

**БЯЛЯ́ЕЎ** Якаў Дзмітрыевіч (15.3.1918, в. Піхалёва Кінешамскага р-на Іванаўскай вобл.— 6.7.1941), Герой Сав. Саюза (1941). У Чырв. Арміі з 1938. Удзельнік сав.-фінляндскай вайны 1939—40. У Вял. Айч. вайну на фронце з чэрв. 1941. Камандзір бронемашыны сяржант Б. вызначыўся ў абарончых баях на Беларусі. 25.6.1941 каля в. Астрашыцкі Гарадок Мінскага р-на з экіпажам знішчыў танк і 3 матацыклы; 6.7.1941 каля вёсак Гібайлавічы і Сомры Крупскага р-на, калі гітлераўцы спрабавалі адрэзаць адыход 100-й стралк. дывізіі, знішчыў 4 аўтамашыны з пяхотай праціўніка Працягваў весці бой з падпаленай ворагам бронемашыны, потым разам з экіпажам уступіў у рукапашны бой, у якім і загінуў. Пахаваны ў г. п. Крупкі. Яго імем названы вуліцы ў Крупках і Кінешме.

**БЯЛЯ́Й** Максім Савіч (11.11.1906, мяст Тураў Мазырскага пав. Мінскай губ., цяпер гар. паселак Жыткавіцкага р-на — 5.11. 1973), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху на тэр. Пінскай вобл. ў Вял. Айч. вайну Скончыў Гомельскую саўпартшколу (1933). З 1937 на парт. рабоце ў Мінскай вобл. З чэрв. 1941 на падп. рабоце ў тыле ворага. У чэрв.— жн. 1943 камісар партыз. атрада імя М. І. Кутузава, брыгады імя У. І. Леніна. З 16.7.1943 да 7.7.1944 — сакратар Ганцавіцкага падп РК КП(б)Б. У 1944—46 1-ы сакратар Ганцавіцкага, 2-і сакратар Лагішынскага райкомаў КП(б)Б, да 1972 на адм.-гасп рабоце.

**БЯЛЯК** Юзаф (1741, в. Лоўчыцы Навагрудскага пав.— чэрв. 1794), вайсковы

дзеяч ВКЛ, ген.-м. войска ВКЛ (1790). Па паходжанні бел. татарын. Служыў у войску, у татарскім палку (харужы потым ротмістр, 1760). Удзельнік сямігадовай вайны 1756—63, быў на саксонскай службе, атрымаў ордэн ад імператрыцы Марыі-Тэрэзіі. Прыхільнік караля Аўгуста III, потым Станіслава Аўгуста Панятоўскага. У час *Барскай канфедэрацыі* камандзір каралеўскага палка татараў. У 1769 на баку канфедэратаў удзельнічаў у некалькіх бітвах, у т. л. пад Слонімам, Моўчаддзю і на Жамойціі. У вер. 1771 удзельнічаў у пераможнай бітве над рус войскамі каля Бездзежа. 12(23).9.1771 у бітве каля Сталовіч, калі войска ВКЛ было разбіта рускімі, адступіў з палком, захаваўшы баявы парадак (гл. *Сталовіцкая бітва 1771*). У 1788—89 удзельнічаў у задушэнні сял. паўстання на Украіне. У чэрв.—ліп. 1792 на чале пярэдняга корпуса войска ВКЛ ваяваў пад Свержанем, Мірам, Зэльвай і Брэстам. У крас. 1794 далучыўся да паўстання, што выбухнула ў Польшчы, на Беларусі і ў Літве. У чэрв. 1794 каля Гродна ўзначаліў корпус, з якім прайшоў да Слоніма і Іўя. Праз некалькі дзён раптоўна памер. Меў маенткі ў Бельска-Падляшскім пав. Пакінуў 13 дзяцей.
*А П Грыцкевіч*

**БЯЛЯ́ЎСКІ** Восіп Фаміч (1859, сяло Райскае Бельскага пав., цяпер в. Райск Беластоцкага ваяв. Польшчы — 1935), беларускі рэвалюцыянер-народнік, дзеяч польскага сацыяліст. руху. З сям'і праваслаўнага святара. Вучыўся ў Беластоцкім рэальным вучылішчы, удзельнічаў у нелегальным вучнеўскім гуртку, заснаваным І. Я. *Грынявіцкім.* Калі быў вольнаслухачом Пецярбургскага ун-та (1878—79), уступіў у народніцкую арг-цыю *«Зямля і воля».* Па яе заданні вёў прапаганду сярод фабрычных рабочых, падтрымліваў сувязі з польскім сацыяліст гуртком у Пецярбургу, Варшаўскай сацыяльна-рэвалюцыйнай арг-цыяй. Перайшоўшы на пазіцыі *«Народнай волі»*, у маі 1879 з мэтай актывізацыі паліт. дзейнасці гуртка ў Беластоцкім рэальным вучылішчы вярнуўся на радзіму Разам з членамі нарадавольскага гуртка ў Гродне М. Янчэўскім, М. Любічам, А. Густановічам і інш. (гл ў арт. *Гродзенскія народніцкія гурткі*) планаваў серыю тэрарыст. актаў. Удзельнічаў у перапра́ве за мяжу С. М. Краўчынскага (С. Сцяпняк) пасля ажыццяўлення ім замаху на шэфа жандараў Мезянцова. Быў арыштаваны, прыцягваўся да дазнання па справах аб сацыяліст. прапагандзе ў Пецярбургу, Гродне, «працэсе 137-і» ў Варшаве. Утрымліваўся ў зняволенні ў Варшаўскай цытадэлі. 13.8.1880 высланы на 3 гады пад нагляд паліцыі ў Кастраму. Падтрымліваў тайную перапіску з нарадавольцамі Пецярбурга, Беластока, Гродна. 18.12.1881 высланы на 4 гады ў г. Ялутараўск Табольскай губ. (цяпер Цюменская вобл.), у вер. 1884 удзельнічаў тут у хваляванні ссыльнапасяленцаў. 26.1.1886 вярнуўся ў Беласток, даваў прыватныя ўрокі. За сувязі з «Народнай воляй» і польскай рэв. арг-цыяй *«Пралетарыят»* («Вялікі») 24.9.1887 зноў арыштаваны. Зняволены ў гродзенскай турме,

Бярдыш 12 ст Віцебск.

11.5.1888 высланы на 5 гадоў у Ніжнеілімск Іркуцкай губ., затым жыў пад тайным наглядам паліцыі ў розных населеных пунктах гэтай губерні. Пасля сканчэння тэрміну нагляду застаўся на жыхарства ў Сібіры, памёр у Іркуцку.

*Літ* Деятели революционного движения в России Т 3, вып 1 М , 1933, Сныткo Т. Г Русское народничество и польское общественное движение 1865—1881 гг М , 1969, Baumgarten L Bielawski Jozef // Słownik biograficzny działaczy polskiego ruchu robotniczego 2 wyd Warszawa, 1985 T 1
*В М. Чарапіца*

**БЯЛЯ́ЎЦАЎ** Уладзімір Іванавіч (6.1.1938, в. Вараноўка Касцюковіцкага р-на —29.1.1988), беларускі гісторык. Д-р гіст. навук (1988). Скончыў БДУ (1966). З 1967 навук. супрацоўнік Ін-та гісторыі партыі пры ЦК КПБ, з 1977 выкладчык, дацэнт кафедры гісторыі КПСС Мінскай ВПШ. Пасля абароны кандыдацкай дысертацыі «У. І. Ленін і Беларусь» (1972) апублікаваў на гэту тэму больш за 30 прац, даследаваў пытанні распаўсюджання твораў Леніна на Беларусі. Складальнік і рэдактар зб. ўспамінаў «У барацьбе і працы» (3-е выд. 1985) пра ўдзел жанчын Беларусі ў рэв. руху і сацыяліст. будаўніцтве, «Хронікі важнейшых падзей гісторыі КПБ» (ч. 3, 1980).

*Тв.* У І Ленін і Беларусь. Мн, 1972, Памятные места, связанные с жизнью и деятельностью соратников В И Лениина в Белоруссии. Мн , 1976, Ленін нам шлях указаў Мн., 1977; В И Ленин и Белоруссия Мн , 1978; Заветам Ленина верны Мн , 1981 (разам з К П Сучковым), Оружие борьбы и созидания — трудящимся Распространение и пропаганда произведений В. И Ленина в Белоруссии, 1917—1941 гг Мн , 1987.
*У М Міхнюк*

**БЯЛЯ́ЦКІ** Дзмітрый Паўлавіч [20. 10(2.11).1906, в. Пугляі Аршанскага пав.— 2.6.1983], беларускі вучоны ў галіне сац. гігіены і гісторыі медыцыны. Д-р мед. навук (1967), праф. (1967). Засл. ўрач БССР (1967). Скончыў Мінскі медыцынскі ін-т (1933). З 1933 у Наркамаце аховы здароўя БССР, з 1937 Гал. дзярж. санітарны інспектар БССР, у 1943—59 нам. міністра аховы здароўя БССР. Удзельнік Вял. Айч. вайны. У 1945—78 заг. кафедры сац. гігіены і арганізацыі аховы здароўя Мінскага медыцынскага ін-та. Аўтар прац па сац. гігіене і гісторыі развіцця санітарнай службы на Беларусі.
*М. К Зубрыцкі*

**БЯРДЫ́Ш**, старадаўняя халодная зброя ў выглядзе сякеры з лязом у форме паўмесяца (даўж. 0,4—1 м) з доўгім драўляным дрэўкам (даўж. 1,8—2 м). Для больш трывалага мацавання да дрэўкаканца ляза Б. мелі спец. падоўжанні («касіцы»), якія прыбіваліся ці прымотвалі рэменем. Ад *алебарды* Б. адрозніваўся адсутнасцю вострага кап'я. Вядомы ў краінах стараж. Усходу, у 15 — пач. 18 ст. па ўсёй Еўропе, у т. л. на Беларусі. У Рус. дзяржаве 16—17 ст Б выкарыстоўвалі пераважна стральцы. Служыў ён і падстаўкай-фаркетам для вядзення агню з агнястрэльнай зброі. Насілі Б. на рэмені за плячамі. З пакарочаным і патоўшчаным дрэўкам (з 1674 у войску Рэчы Паспалітай) выкарыстоўваўся як сякера для пабудовы вайск. драўлянай агароджы, стварэння лясных засек, завалаў і інш У 16 — пач. 18 ст на Беларусі Б.— масавая зброя гараджан і сялян-паўстанцаў, гар. начной варты і брамнікаў. У час археал. раскопак, у працэсе земляных работ знойдзены Б. 12, 14—17 ст. у Віцебску, Брэсце, Гродне, Мінску, Мядзеле і інш. гарадах. Беларускія збройнікі выраблялі Б. простыя і «набіўныя срэбрам з абухамі».

*Літ* Историко-юридические материалы Вып. 6, 17 Витебск, 1875, 1888, Кирпичников А Н Военное дело на Руси в XIII — XV вв Л , 1976, Dziewanowski W Zarys dziejów uzbrojenia w Polsce Warszawa, 1935
*М А Ткачоў*

**БЯРКО́ВІЧ** Шая Іосіфавіч (14.3.1918, г. Барысаў — 31.12.1942), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў камсамольска-маладзежнага падполля і партыз. руху на тэр. Пінскай вобл. ў Вял. Айч. вайну. Скончыў Ленінградскі тэхнікум чыгуначнага транспарту (1938). З 1939 сакратар, з вер. 1940 1-ы сакратар Пінскага ГК ЛКСМБ. З ліп. 1941 сакратар *Пінскага падпольнага абкома ЛКСМБ* і Пінскага падп. ГК ЛКСМБ, адначасова ў ліст. 1942 нач. штаба партыз. брыгады імя С. Лазо. Загінуў у баі Пахавальны ў в. Малоткавічы Пінскага р-на ў брацкай магіле сав. воінаў і партызан. Яго імем названа вуліца ў Пінску.

**БЯРНА́ЦКІ** Дзмітрый Васілевіч (24.7.1912, мяст. Стрэшын Рагачоўскага пав. Магілеўскай губ., цяпер г. п. Стрэ-

шын Жлобінскага р-на — 23.1.1945), Герой Сав. Саюза (1945). Працаваў бухгалтарам. У Чырв. Арміі з 1941. Скончыў Арлоўскае пях. вучылішча (1942). У Вял. Айч. вайну з ліп. 1942 на Сталінградскім, Данскім, Сцяпным, 2-м і 1-м Укр. франтах. Ад'ютант старшы батальёна капітан Б. вызначыўся ў баі ў ноч на 21.1. 1945: на чале групы байцоў фарсіраваў Одэр на ПдУ ад г. Брэслаў, выбіў праціўніка з траншэй, адбіў 5 варожых контратак. Загінуў у гэтым баі.

Дз. В. Бярнацкі.

**БЯРНО́ВІЧЫ**, шляхецкі род герба «Бярновіч» (варыянт герба «Казічкоўскі») — на чырвоным полі шчыта 3 сярэбраныя ружы на галінках, а над кожнай з іх — залатая 6-канцовая зорка; такія ж ружы з зоркамі ў кляйнодзе над каронаю. Прадстаўнікі роду займалі дзярж. і ваен. пасады ў ВКЛ, Рэчы Паспалітай, Расійскай імперыі. Валодалі маёнткамі ў Мінскім і Слуцкім пав. Выводзілі свой род з Прусіі ад 1560. Найбольш вядомыя прадстаўнікі роду:

Ян (?—?), заснавальнік роду. Упершыню згадваецца ў 1683 як маёр войска ВКЛ. Стольнік вендэнскі.

Юрый Вільгельм (?—?), сын Яна, стольнік вендэнскі (з 1701), у 1704—07 на вайск. службе. Дзядзічныя маёнткі *Бабоўня* і Мардзвінаўшчына Слуцкага пав. адпісаў (1717) сыну Юрыю.

Міхал (24.9.1734, маёнтак Бабоўня — пасля 1802), сын Юрыя. У 1745 атрымаў каралеўскі прывілей Аўгуста III на закладанне мястэчка ў маёнтку Бабоўня (пад апекай свайго дзядзькі М. Мераеўскага). Староста крэўскі (1764), суддзя каптуровы, пасол на элекцыйны сейм Рэчы Паспалітай (1763), камісар па люстрацыі «дымоў» у Навагрудскім ваяв. (1766), дэпутат ад Навагрудскага ваяв. і пісар Трыбунала ВКЛ у 1767 і 1774, абозны (1769), падчашы (1780), камісар скарбовай камісіі ВКЛ (1780 і 1782), суддзя земскі навагрудскі (1783), падкаморы слуцкі (1792), пасол на сейм 1788 ад Навагрудскага ваяв., слуцкі пав. маршалак (1795—1802), правадзейны стацкі саветнік (1796).

Сэрвацы Станіслаў Антон (14.5.1784, Бабоўня — каля 1835), сын Міхала, старшыня Мінскага гал. і памежнага судоў, старшыня гал. судоў Мінскай губ., слуцкі пав. маршалак (1808—11). Кавалер ордэна св. Ганны (1817). Уладальнік маёнткаў Бабоўня, Грозава, Рымашы Слуцкага пав. Меў сыноў Мечыслава Лук'яна і Уладзіслава Аляксандра Генрыха.

Юзаф Канстанцін (14.7.1788, Бабоўня — пасля 1835), сын Міхала. Капітан коннага палка (1814), з 1816 у адстаўцы. Уладальнік маёнтка Навасады Мінскага пав. Меў сыноў Сабяслава Мікалая Фёдара Вікенція і Марціна Ананія Яраслава.

*Л. А. Акаловіч.*

**БЯРО́ЗА** (да 1940 Бяроза-Картузская, Картуз-Бяроза), горад, цэнтр Бярозаўскага р-на, на р. Ясельда. За 100 км на ПнУ ад Брэста, за 6 км ад чыг. ст. Бяроза-Картузская на лініі Брэст — Баранавічы, на аўтадарозе Кобрын — Баранавічы. 26 тыс. ж. (1992).

У пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца пад 1477 як вёска Слонімскага, у 1521 Кобрынскага паветаў ВКЛ. Належала Гамшэям, Вештартовічам, Гастоўскім, Рудзінскім, з канца 16 ст.— Сапегам. З 1629 — мястэчка. У 1648—89 пабудаваны *Бярозаўскі кляштар картэзіянцаў* (картузаў, адсюль назва Картуз-Бяроза), які валодаў значным зямельным надзелам, 800 сял. дварамі. У 1706 тут адбылася сустрэча Пятра I з польскім каралём Аўгустам II. У час Паўночнай вайны 1700—21 шведскія войскі разбурылі горад, разрабавалі кляштар. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай з 1795 у складзе Расіі, мястэчка Пружанскага пав. Слонімскай, з 1797 Літоўскай, з 1801 Гродзенскай губ. У 1-й пал. 19 ст. ў Б. праводзілася 8 кірмашоў штогод, дзейнічалі 2 гарбарныя і суконная мануфактуры, было 36 крам. У 1833 у Б. 1,2 тыс. ж., 200 драўляных дамоў. Пасля будаўніцтва Маскоўска-брэсцкай чыгункі пачаўся хуткі рост мястэчка. У 1897 у Б. 6,2 тыс. ж., 5 цагляных і 1070 драўляных дамоў, мужчынскае і жаночае нар. вучылішчы, фельчарскі пункт, аптэка. У пач. 1900-х гадоў у горадзе дзейнічала група РСДРП. З 1915 Б. акупіравана германскімі войскамі, з 1919 да чэрв. 1920 і са жн. 1920 — войскамі Польшчы. Сав. ўлада існавала ў ліпені — жніўні 1920. З 1921 у складзе Польшчы, мястэчка Пружанскага пав. Палескага ваяводства. Дзейнічаў падп. райком КПЗБ. У 1934 тут створаны *Бяроза-Картузскі канцэнтрацыйны лагер.* З 1939 у складзе БССР, 5 тыс. жыхароў. З 15.1.1940 горад, цэнтр раёна. З 23.6.1941 да 15.7.1944 Б. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 7 тыс. чалавек у створаным тут лагеры смерці. На чыг. станцыі дзейнічала падп. камсамольская арг-цыя, у раёне — падп. антыфаш. камітэт, раённыя парт. і камсамольскія органы. Горад вызвалены ў ходзе *Беларускай аперацыі 1944* войскамі 48-й гв. стралк. дывізіі 28-й арміі 1-га Бел. фронту. У 1959 у горадзе 5,6 тыс. жыхароў. Прамысловыя прадпрыемствы: з-ды жалезабетонных вырабаў, маторарамонтны, па вытв-сці кармавых тлушчаў і касцявой мукі, вытв. металаапрацоўчае, праектна-будаўнічае, будматэрыялаў, жыллёва-камунальнае аб'яднанні, сілікатных вырабаў, мясакансервавы, сыраварны, кааператыўнай прамысловасці камбінаты і інш. Працуюць СПТВ будаўнікоў, школы (3 сярэднія, музычная і дзіцяча-юнацкая спартыўная), міжшкольны вучэбна-вытв. камбінат, Дом культуры, Дом юнацкай і дзіцячай творчасці, кінатэатр, 7 дашкольных устаноў, 2 б-кі, *Бярозаўскі гісторыка-рэвалюцыйны музей*, бальніца, паліклініка. Помнікі: У. І. Леніну, вязням Бяроза-Картузскага канцлагера, на брацкай магіле сав. воінаў і партызан, сав. лётчыкам, на магілах ахвяр фашызму. Захаваліся помнікі архітэктуры: касцёл і кляштар картэзіянцаў і Петрапаўлаўская царква (19 ст.). У Б. нарадзіліся: дзеяч рэв. руху ў Зах. Беларусі сакратар ЦК КСМЗБ А. А. *Альшэўскі*, прэзідэнт АН БССР гісторык П. В. *Горын* (Каляда).

*Літ.:* Селеня Е. В., Сикорин Н. Д. Берёза: Ист.-экон. очерк. Мн., 1977; Селеня Е. В. Берёза. Ист.-экон. очерк. Мн., 1988; Память: Ист.-докум. хроника Берёзовского р-на. Мн., 1987.

*Я. В. Сяленя.*

**БЯРО́ЗА-КАРТУ́ЗСКАЯ**, назва (да 1940) г. *Бяроза*.

**БЯРО́ЗА-КАРТУ́ЗСКІ КАНЦЭНТРАЦЫ́ЙНЫ ЛА́ГЕР**, месца зняволення паліт. вязняў у Польшчы. Створаны паводле распараджэння прэзідэнта Польскай рэспублікі ад 17.6.1934 для ізаляцыі камуністаў, камсамольцаў і левых элементаў. Размяшчаўся ў колішніх вайск. казармах мяст. Бяроза-Картузская Палескага ваяводства. Людзей найчасцей знявольвалі без следства і суда, на падставе даносаў мясц. адміністрацыі, часта на неабмежаваны тэрмін. Вызначаўся жорсткім рэжымам. Вязням забаранялася размаўляць паміж сабой, павольна хадзіць. За любое парушэнне рэжыму зняволеных кідалі ў карцэр, білі. Сістэмай здзекаў, няспыннай і бяссэнсавай муштры адміністрацыя лагера імкнулася зламаць волю вязняў, давесці да фізічнага і маральнага знемажэння. У канцлагеры былі зняволены актыўныя дзеячы КПЗБ, КПЗУ і КПП, сярод іх А. І. Кароль, Ф. Р. Маркаў, укр. паэт А. Гаўрылюк. Тут закатаваны камуністы А. А. Мазырка, А. В. Германіскі, Ю. Нядзельскі і інш. Але паліт. вязні трымаліся стойка і мужна. З першых дзён існавання канцлагера ў ім дзейнічала законспіраваная камуніст. арг-цыя. У склад парт. к-та ў розны час уваходзілі члены КПЗБ і КПП І. А. Саланевіч, І. І. Райскі, С. С. Самайловіч. Камуністычная арг-цыя ў лагеры існавала і пасля неабгрунтаванага роспуску КПП і яе састаўной часткі КПЗБ і КПЗУ (лета 1938). Працоўныя Польшчы, Зах. Беларусі, Зах. Украіны, СССР, прагрэс. сілы ўсяго свету рашуча пратэставалі супраць існавання Б.-К. к. л., вялі барацьбу ў абарону вязняў, памагалі сем'ям зняволеных. Канцлагер ліквідаваны ў вер. 1939 у выніку вызвалення Зах. Беларусі Чырв. Арміяй. Частка былых палітзняволеных пайшла добраахвотнікамі на польска-германскі фронт, астатнія ўключыліся ў работу па аднаўленні сав. улады на тэр. б. Зах. Беларусі і Зах. Украіны. Паводле няпоўных звестак, за 5 гадоў

існавання лагера праз яго прайшло больш за 10 тыс. вязняў. У *Бярозаўскім гісторыка-рэвалюцыйным музеі* ёсць матэрыялы пра канцлагер. У 1962 на тэр. былога канцлагера пастаўлены абеліск.

*Літ* Гаврилюк А. Песни из Березы М, 1954, Bereziacy Warszawa, 1965, Они не стали на колени Сб воспоминаний и документов о концлагере Береза-Картузская Мн, 1966, Ладысев В Ф В борьбе за демократические права и свободы Мн, 1988

*У С Пасэ*

**БЯРО́ЗАЎКА**, гар. пасёлак у Лідскім р-не Гродзенскай вобл, на левым беразе р. Неман (за 1,5 км). За 27 км на ПдУ ад Ліды, 8 км ад чыг. ст. Неман на лініі Ліда — Баранавічы. 11,8 тыс. ж. (1991).

У мінулым веска Лідскага пав. Віленскай губ., побач з якой у 1883 памешчык Зянон Ленскі пабудаваў паўсаматужную гуту, якая пазней стала шклозаводам (у 1908 атрымаў назву *«Неман»*). У часы 1-й сусв. вайны Б. акупіравана ням. войскамі. З 1921 у складзе Польшчы, веска Лідскага пав. Навагрудскага ваяв. У 1905, 1911, 1922, 1924, 1929, 1936 рабочыя шклозавода арганізоўвалі забастоўкі супраць жорсткай эксплуатацыі і жабрацкага існавання. З 1939 Б ў складзе БССР, з 15.1 1940 у Навагрудскім р-не, з 12.10.1940 — цэнтр сельсавета. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941, вызвалена 9.7 1944 у ходзе *Беларускай аперацыі 1944*. Адразу адноўлена дзейнасць шклозавода. У 1946 на базе з-да створана рамеснае вучылішча, з 1982 — сярэдняе прафтэхвучылішча З 15.5.1959 Б.— рабочы пас. Навагрудскага, з 25.12.1962 Лідскага р-наў, з 24.6.1968 — гар. пасёлак. У 1969 у пасёлку 5,1 тыс. ж. Тут працуюць шклозавод, хлебапякарня, камбінат грамадскага харчавання, Дом быту, сярэдняя, музычная і дзіцячая спартыўная школы, Дом піянераў і школьнікаў, Палац культуры, кінатэатр, б-кі, грамадскія музеі (шклозавода і пасёлка) У Б. брацкая магіла сав. воінаў і партызан і магіла сав. ваеннапалонных, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, помнік У І. Леніну.

*А І. Несцярэнка*

**БЯРО́ЗАЎСКІ**, рабочы паселак, назва г. *Белаазерск* у 1960.

**БЯРО́ЗАЎСКІ ГІСТО́РЫКА-РЭВАЛЮЦЫ́ЙНЫ МУЗЕЙ.** Заснаваны ў 1961 у Бярозе. Мае 6 экспазіцыйных залаў (пл. экспазіцый 213,3 м$^2$), каля 25 тыс. экспанатаў асн. фонду (1991). У тэматычных раздзелах матэрыялы пра рэв.-вызваленчы рух на Беларусі, падзеі 1-й сусв і грамадзянскай войнаў, *Бяроза-Картузскі канцэнтрацыйны лагер*, пра КПЗБ і яе дзейнасць, аб'яднанне Зах. Беларусі з БССР, устанаўленне сав. улады на Бярозаўшчыне, падзеі Вял. Айч. вайны абарончыя баі, якія веў у ваколіцах Бярозы ў 1941 130-ы скарасны бамбардзіровачны авіяполк, злачынствы ням.-фаш захопнікаў на тэр раена, дзейнасць Брэсцкага падп абкома КП(б)Б, Блудзенскага падполля, работа лясных школ у партыз. атрадах, аднаўленне і развіцце гаспадаркі раена ў пасляваен. гады Сярод экспанатаў дакументы пра паўстанне 1863—64, заходнебел. перыядычныя выданні, падп. друк перыяду Вял. Айч. вайны, дыярама, прысвечаная *Здзітаўскай абароне 1944*, творы жывапісу, у т. л. карціна М. Ц. Гуцева «Сустрэча Пятра I з польскім каралем Аўгустам II у Картуз-Бярозаўскім манастыры ў 1706 годзе». Сабраны матэрыялы пра кляштар картэзіянцаў 17 ст., пра знакамітых землякоў, у т. л. дзеяча рэв. руху ў Зах. Беларусі А. А Альшэўскага, ген.-лейт. С. І. Любарскага, бел. гісторыкаў акадэміка АН БССР П. В. Горына-Каляду і В. Д. Дружчыца, пра ганаровых грамадзян Бярозы, ураджэнцаў раена бел. пісьменнікаў Н. Мацяш, А. Разанава, Р. Баравікову, А. Казловіча, В Сахарчука, укр. пісьменніка А. Гаўрылюка, які быў вязнем Бяроза-Картузскага канцэнтрацыйнага лагера. Экспануюцца ўзоры нац. адзення. У раздзеле «Бярозаўшчына сучасная» матэрыялы пра лепшых працаўнікоў, узоры прадукцыі вядучых прадпрыемстваў раена, калекцыя драўляных музычных інструментаў, зробленых нар. умельцам Я І. Шаўчуком і інш

*Г С Пуцыковіч*

**БЯРО́ЗАЎСКІ КЛЯ́ШТАР КАРТЭЗІЯ́НЦАЎ.** Існаваў у сярэдзіне 17 ст.— 1831 у Бярозе-Картузскай (цяпер *Бяроза*). Заснаваны падканцлерам ВКЛ Казімірам Лявонам Сапегам, які запрасіў сюды манахаў ордэна *картэзіянцаў*. Будынкі кляштара пастаўлены ў 1648—89, на балоцістым месцы, з-за чаго пад фундаменты давялося забіваць палі. У 1661 пад кіраўніцтвам невядомага архітэктара з Варшавы скончана будаўніцтва мураванага касцёла ў стылі сталага барока — трохнефавай базілікі з трыма апсідамі і вежай-званіцай, прыбудаванай да сярэдняй апсіды. У інтэр'еры 13 алтароў былі аздоблены лепкай са стука і разьбой па дрэве, паліхромнымі з пазалотай скульптурамі, карцінамі мясцовых і італьянскіх мастакоў. У комплекс таксама ўваходзілі аднатыпныя групы жылых карпусоў, прыстасаваных для адзіночнага жыцця манахаў, як таго патрабаваў статут ордэна, і гаспадарчыя будынкі Былі бібліятэка, майстэрні, сады і агароды плошчай 9 маргоў, 103 пруты і інш. Кляштарны комплекс быў абнесены мураванай сцяною з 5 вежамі і брамай Па-за яго сценамі знаходзіліся лазарэт, дом лекара і аўстэрыя. Кляштар меў сваю цагельню. Фундатар шчодра забяспечыў кляштар, перадаўшы яму вёскі Бяроза, Бусяж, фальварак Грынкевічы, шмат літургічнага посуду, вырабаў з серабра, каштоўныя арнаты. Прыбыткі і зямельныя надзелы кляштара павялічваліся і за кошт гандлю гарэлкай, віном і півам, ліхвярства, ахвяраванняў заможных людзей за пахаванне ў склепе касцела, маемасці, адпісанай кляштару ўласнікамі. Напр., у 1665 кляштар атрымаў фальварак Лявошкі, да яго перайшлі маёнткі Лейпуны і Панямонне ў Гродзенскім пав, фальварак Вугляны ў Слонімскім пав., у 1672—3 валокі зямлі ў Здзітаве і інш. У сцяне кляштара ў 1656 пахаваны К. Сапега, пазней і іншыя прадстаўнікі яго роду. У 1830 агульная вага кляштарных каштоўнасцей складала больш за 100 фунтаў. Храм быў накрыты лiставой меддзю, падлога выкладзена шведскім мармурам. У кляштары захоўвалася 39 рукапісных кніг, у т. л. 11 псалтыроў (кляштар славіўся перапісчыкамі кніг), 2314 друкаваных тамоў. Звычайна ў кляштары жыло 14—16 манахаў, на кляштар працавала больш за 2,4 тыс. феад.-залежных сялян. У час паўстання 1830—31 прыслуга кляштара далучылася да паўстанцкага атрада Ц. Пуслоўскага, што дало рус уладам падставу закрыць кляштар. Касцел стаў парафіяльным, але ў 1866 таксама закрыты. Пазней ён разабраны, цэгла скарыстана рус. вайскоўцамі на будаўніцтва салдацкіх казармаў. Захаваліся рэшткі кляштара.

*Літ* Квітніцкая А Д Кляштар у Картузскай Бярозе // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі 1973 № 4, Дзярновіч А., Калнін В Гісторыка-археалагічныя даследаванні Бярозаўскага кляштара картузаў // З глыбі вякоў Наш край Гіст -культурал зб Мн, 1992

*А А Ярашэвіч*

**БЯРО́ЗАЎСКІ РАЁН.** Размешчаны ў цэнтр. частцы Брэсцкай вобл. Пл. 1,5 тыс км$^2$. Насельніцтва 72 тыс чал. (1991) Утвораны 15.1 1940. Цэнтр — г. *Бяроза* У складзе раена 116 населеных пунктаў, у т. л. г. *Белаазерск*, 15 сельсаветаў Белаазерскі, Боркаўскі, Бярозаўскі, Высокаўскі, Здзітаўскі, Малецкі, Міжлескі, Нарутавіцкі, Першамайскі, Пескаўскі, Сакалоўскі, Сігневіцкі, Спораўскі, Стрыгінскі, Сялецкі Паверхня раена раўнінная, паўн. яго частка ў межах Прыбугскай раўніны, паўд — Прыпяцкага Палесся Рака Ясельда з прытокамі канал Вінец і Жыгулянка, азеры Чорнае, Спораўскае, Белае. Лясы займаюць 22 % тэр. раена, найб. буйныя масівы Галавіцкія Буды, Бронная Гара. Па тэр. раена праходзяць чыгунка і аўтадарога Брэст — Мінск.

У чэрв. 1941 акупіраваны ням -фаш захопнікамі, якія загубілі ў раёне каля 6 тыс. мірных жыхароў. У месцы масавай загубы людзей акупанты ператварылі ўрочышчы каля чыг. ст. Бронная Гара, в. Смалярка, руіны картэзіянскага кляштара ў Бярозе. На тэр раёна дзейнічалі падп. райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ, партыз. брыгады «Савецкая Беларусь», імя Панамарэнкі, імя Свярдлова, імя Дзяржынскага, атрады імя Будзеннага, імя Варашылава, імя Катоўскага, імя Шчорса, 345-ы, 347-ы На чыг ст Бяроза-Картузская і ў в Блудзень дзейнічала Блудзенскае камсамольска-маладзёжнае падполле. Каля в Здзітава вясной 1944 базіраваўся Брэсцкі абком КП(б)Б, адбыліся баі партызан з гітлераўцамі (гл. *Здзітаўская абарона 1944*). Раен вызвалены ад ням -фаш захопнікаў у сярэдзіне ліп. 1944 войскамі 28-й арміі 1-га Бел. фронту разам з партызанамі ў ходзе *Беларускай аперацыі 1944*

У гаспадарцы раена асноўнае месца займае с.-г. вытворчасць. Тут 14 калгасаў, 3 саўгасы, птушкафабрыка, рыбгасы «Сялец» і «Белаазерскі» Раен спецыялі-

зуецца на малочна-мясной жывёлагадоўлі, свінагадоўлі, развіта птушкагадоўля, агародніцтва, бульба і буракаводства, пашыраны пасевы збожжавых. Працуюць Бярозаўская ДРЭС, вытв. аб'яднанні: металаапрацоўчае, праектнабудаўнічае, будматэрыялаў, жыллёва-камунальнае, «Бярозміжрайгас»; камбінаты: мясакансервавы, сыраварны, сілікатных вырабаў, кааператыўнай прам-сці; з-ды: энергамеханічны, маторарамонтны, жалезабетонных вырабаў, кармавых тлушчаў і касцявой мукі, камбікормавы, 9 будаўнічых арганізацый. У раёне 2 вучылішчы, 21 сярэдняя, 13 васьмігадовых, 22 пач., спартыўная, 5 музычных школ, 45 клубных устаноў, 51 б-ка, 60 кінаўстановак (у т. л. 59 стацыянарных), 5 бальнічных устаноў, 2 амбулаторыі, 27 фельчарска-акушэрскіх пунктаў. Выдаецца газ. «Маяк».

На тэр. раёна найб. значныя помнікі археалогіі каля в. Высокае, *Здзітава,* Спорава. Брацкія магілы сав. воінаў, партызан, ахвяр фашызму і сав. актывістаў у вёсках: Бармуты, Вайцешын, Восаўцы, Горск, Малыя Лясковічы, Мормажава, Новыя Пескі, Падкраічы, Паўлавічы, Першамайская, Равяцічы, Сакалова, Сашыца, Спорава, Сялец; воінскія могілкі ў в. Шылін. Помнікі: ген.-лейт. С. І. *Любарскаму* ў в. Новыя Пескі, удзельніку рэв. і нац.-вызв. руху ў Зах. Беларусі М. М. Скробату ў в. Сашыца, аднаму з арганізатараў партыз. руху і падп. барацьбы ў Вял. Айч. вайну Л. Р. Зданові-чу ў в. Сашыца, у гонар Брэсцкага падп. абкома КП(б)Б у в. Спорава, Бярозаўскіх падп. райкомаў КП(б)Б і ЛКСМБ у в. Новыя Пескі; землякам у н. Агароднікі, Боркі, Малеч, Падкраічы, Сігневічы, Стрыгінь, Судзілавічы, Ястрабель. Каля в. Здзітава мемарыяльны комплекс «Здзітаўская абарона»; курган Славы каля в. Зубачы. Захаваліся помнікі архітэктуры: Троіцкая царква пач. 19 ст. і сядзіба 2-й пал. 18 — пач. 19 ст. (в. Новыя Пескі), касцёл пач. 20 ст. і Успенская царква 19 ст. (в. Сялец), Пакроўская царква 18—19 ст. (в. Сігневічы), царква Маці Боскай 19 ст. (в. Сакалова), царква Іаана Багаслова пач. 19 ст. (в. Стрыгінь), Мікалаеўская царква пач. 19 ст. (в. Чарнякава).

У раёне нарадзіліся: бел. гісторык В. Д. Дружчыц (в. Першамайская), ген.-лейт. Любарскі (в. Новыя Пескі).

*Літ.:* Селеня Е. В. Берёза: Ист.-экон. очерк. Мн., 1988; Память: Ист.-докум. хроника Берёзовского р-на. Мн., 1987; Свод памятников истории и культуры Белоруссии. Брестская область. Мн., 1990. *Я. В. Сяленя.*

**БЯРША́ДСКІ** Сяргей Аляксандравіч (18.3.1850, г. Бярдзянск Таўрычаскай губ., цяпер Запарожскай вобл.— 1896), юрыст, гісторык. Магістр дзярж. права (1883). Вучань Ф. І. *Леантовіча.* Скончыў Новарасійскі ун-т (Адэса, 1872). З 1878 выкладчык Пецярбургскага ун-та (з 1883 дацэнт, з 1885 экстраардынарны праф. кафедры энцыклапедыі і філасофіі права). Адначасова выкладаў у Ваеннаюрыд. акадэміі і імператарскім Аляксандраўскім ліцэі. Таварыш старшыні Гістарычнага т-ва пры Пецярбургскім ун-це. Вывучаў па першакрыніцах (пераважна акты Метрыкі ВКЛ) гісторыю т. зв. «літоўскіх яўрэяў» (яўрэі Літвы і Беларусі): іх паходжанне ў ВКЛ, месца і ролю ў дзяржаве, прававы, сацыяльнаэканам. і паліт. статус, перадгісторыю ўзнікнення т. зв. «яўрэйскага пытання» ў Расійскай імперыі.

*Тв.:* Русско-еврейский архив: Документы и материалы для истории евреев в России. Т. 1—2. Спб., 1882; Привилегии Великого князя Витовта литовским евреям // Восход. 1882. № 7—12; Аврам Езофович Ребичкович, подскарбий земский, член Рады Великого княжества Литовского. Киев, 1888; Литовские евреи: История их юридич. и обществ. положения в Литве от Витовта до Люблинской унии, 1388—1569 г. Спб., 1883; Лекции по истории философии права. Спб., 1885; История Виленской еврейской общины, 1593—1649 г. // Восход. 1881. Кн. 7; 1886. Кн. 10—11; 1887. Кн. 3—7; В изгнании: Очерк из истории лит. и пол. евреев XV в. Спб., 1892; О наследовании в выморочных имуществах по литовскому праву. Спб., 1892; Литовский статут и польские конституции: Ист.-юридич. исслед. Спб., 1893.

*Літ.:* Венгеров С. А. Критико-биографический словарь русских писателей и учёных. Т. 3. Спб., 1892. *Дз. У. Караў.*

БЯРОЗАЎСКІ РАЁН

**БЯРЭ́ЖКІ,** Бережкі, вёска ў Зэльвенскім сельсавеце Зэльвенскага р-на. За 2 км на ПдУ ад Зэльвы, 1,5 км ад чыг. ст. Зэльва. 84 двары, 156 ж. (1990).

Паводле дакументаў 1478, Б. засиаваны панам Васілём Копачам як паселішча (дварэц) для прыслугі, якая даглядала панскі статак. У 1493 вял. князь ВКЛ Аляксандр пацвердзіў правы Яцка Васілевіча Копача на маёнтак Дзярэчын, у складзе якога названы і Б. На працягу 16—17 ст. тут сфарміравалася вёска і панскі двор. Як сведчыць інвентар 1663, апошні меў абарончы характар. Вакол двара быў прakапаны роў, злучаны з р. Зальвянкай. Цераз роў быў перакінуты мост, за якім размяшчалася вял. ўязная брама. На падвор'і знаходзіліся драўляны 2-павярховы сядзібны дом, кухня, свірны, бровар, стайня і інш. На рэчцы стаялі 4 млыны. У гэты час Б. належалі князям Палубенскім і з'яўляліся цэнтрам воласці. Паводле інвентара 1777, у вёсцы было 27 двароў і 95 жыхароў. У сял. гаспадарках налічвалася 28 валоў, 24 каровы, 4 кані, 16 быкоў, 13 цялят. У 1905 — вёска Старавескай вол., 464 жыхары. У час 1-й сусв. вайны Б. акупіраваны германскімі войскамі. З 1921 у складзе Польшчы, у Ваўкавыскім пав. Беластоцкага ваяв. З 1939 у БССР, з 1940 у Зэльвенскім р-не.

У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1941 акупіраваны ням.-фаш. войскамі. Вызвалены ў ліп. 1944 г. войскамі 2-га Бел. фронту ў ходзе *Беластоцкай аперацыі 1944.* У Б. бібліятэка, магазін. Брацкая магіла сав. воінаў і ахвяр фашызму.

*Літ.:* Archiwum książąt Sanguszków w Sławucie. Lwow. 1890. T. 3. S. 16, 25. *В. У. Шаблюк.*

**БЯРЭ́ЗІНСКАЯ АПЕРА́ЦЫЯ 1812,** наступальная аперацыя рус. войск у ліст. 1812 на завяршальным этапе *Айчыннай вайны 1812.* Мэта: акружэнне і знішчэнне напалеонаўскай арміі ў раёне верхняга і сярэдняга цячэння р. Бярэзіна канцэнтрычнымі дзеяннямі з У (армія М. І. Кутузава; каля 50 тыс. чал.), ПдЗ (3-я Зах. армія П. В. *Чычагова;* каля 35 тыс. чал.) і Пн (узмоцнены 1-ы пях. корпус П. Х. *Вітгенштэйна;* каля 40 тыс. чал.). Ідэя аперацыі ўпершыню выказана ў рэскрыптах імператара Аляксандра І Кутузаву і інш. камандуючым 31.8 (12.9).1812. Паводле гэтага плана, гал. роля прызначалася арміі Чычагова, якая павінна была заняць Мінск, злучыцца каля Докшыц з корпусам Вітгенштэйна і чакаць войскі Напалеона на ўмацаваным рубяжы рэк

Бярэзіна і Ула. Кутузаў першапачаткова (у вер. 1812) лічыў магчымым акружыць Напалеона яшчэ пад Смаленскам, але гэты намер не быў рэалізаваны найперш з-за аддаленасці войск Чычагова і Вітгенштэйна. Іх актывізацыя на працягу кастр. (заняцце 3-й рус. арміяй Слоніма і выхад да Нёмана, наступленне Вітгенштэйна ад Полацка на Лепель і Чашнікі), а таксама хуткае адступленне гал. сіл французаў, якія пакінулі Смаленск і Оршу, прывяло да таго, што ўсе 3 групоўкі рус. войск зблізіліся на адлегласць магчымага аператыўнага ўзаемадзеяння. Насупраць арміі Кутузава знаходзіліся гал. сілы Напалеона (гвардыя і 5 карпусоў, кожны складам у 2—3 батальёны, 1 узмоцнены эскадрон кавалерыі; усяго каля 30 тыс. чал., а таксама 30—40 тыс. чал. адсталых і небаяздольных). Насупраць арміі Чычагова былі разрозненыя атрады гал. чынам польскіх войск (атрад Ф. К. Касецкага каля Новага Свержня, мінскі гарнізон М. Бранікоўскага, узмоцненая 17-я пях. дывізія Я. Г. *Дамброўскага* ў раёне Ігумена; усяго каля 9 тыс. чал.). Корпусу Вітгенштэйна процістаялі французскія карпусы К. Віктора і Н. Ш. *Удзіно* (каля 25 тыс. чал.) каля Чарэі. Найбольш актыўна дзейнічала ар-

Пераправа цераз Бярэзіну. Лістапад 1812 г. Аўталітаграфія сярэдзіны 19 ст.

## БЯРЭЗІНСКАЯ АПЕРАЦЫЯ 1812 ГОДА

мія Чычагова. Атрад Касецкага быў адкінуты ад Немана і поўнасцю разбіты ў *Койданаўскім баі 1812*. Апярэдзіўшы Дамброўскага, Чычагоў 4(16) ліст. заняў Мінск і працягваў рух да Бярэзіны, прычым бакавы авангард пад камандаваннем Я. І. Чапліца быў высунуты ў раёне Зембіна і перакрыў шлях на Маладзечна. 9(21) ліст. армія Чычагова атакавала Дамброўскага ў Барысаве і захапіла горад (гл. *Барысаўская бітва 1812*). У гэты ж дзень франц. армія пакінула Оршу і пачала адступаць таксама на Барысаў, які стаў цэнтр. пунктам усёй аперацыі. Напалеон загадаў корпусу Удзіно прайсці да Бабра, стаць у авангардзе арміі і выбіць рускіх з Барысава, а корпусу Віктора — размясціцца каля Халопеніч і прыкрываць ад войск Вітгенштэйна гал. лінію адступлення і подступы да Бярэзіны. Абедзве гэтыя задачы 10—11 (22—23) ліст. былі вырашаны. Войскі Чычагова вярнуліся на правы бераг Бярэзіны, ініцыятыва на гэтым участку перайшла да французаў. Тады ж, грунтуючыся на даных кав. разведкі, Напалеон прыняў рашэнне пераправіцца цераз Бярэзіну вышэй Барысава, у раёне вёсак Студзенка і Весялова. Удзіно неадкладна пачаў скрытную падрыхтоўку да пераправы і адначасова зрабіў захады па дэзінфармацыі рус. камандавання (разведкі і апытанні мясц. жыхароў у вёсках ніжэй Барысава, дэманстрацыйная адпраўка туды паасобных вайск. часцей і малаважных абозаў і г. д.). Галоўная кватэра Кутузава ў гэты час знаходзілася яшчэ на левым беразе Дняпра, праследаванне і назіранне за праціўнікам вялося праз рухомыя атрады, якія былі раскіданы ланцугом ад Бабінавіч да Шклова. Толькі 12—14 (24—26) ліст. рус. армія пераправілася цераз Днепр каля Копысі і рушыла да Бярэзіны праз Круглае і Шавярнічы, г. зн., як і раней, на Пд ад лініі адступлення французаў. З двух магчымых кірункаў руху Напалеона — на Маладзечна і Вільню або на Мінск і Слонім — Кутузаў лічыў больш імаверным апошні і ўмацаваўся ў гэтым меркаванні, калі даведаўся пра заняцце Барысава і Зембіна войскам Чычагова. Адпаведныя загады былі адпраўлены ад Кутузава камандзірам асобных партыз. атрадаў, а таксама Чычагову і Вітгенштэйну. Чычагоў, і без таго ўведзены ў зман дзеяннямі Удзіно і актывізацыяй польскіх войск каля Свіслачы і аўстрыйскіх пад Нясвіжам, перавёў 13—14 (25—26) ліст. амаль усе свае войскі з-пад Барысава на Пд, да Забашавіч, а атрад Чапліца — да Барысава. Вітгенштэйн з 9(21) ліст. асцярожна рухаўся ад Чашнікаў на Чарэю і далей на Барань, і толькі 14(26) ліст. яго авангард перайшоў р. Сха і пачаў пагражаць зносінам французаў. Напалеон па-майстэрску скарыстаў спрыяльную сітуацыю. З падыходам усёй французскай арміі да Барысава корпус Удзіно быў сканцэнтраваны каля месца пераправы цераз Бярэзіну, корпус Віктора падцягнуты *да гал. сіл*. 14(26) ліст. па наведзеных мастах пачалася 3-дзённая пераправа французскіх войск, якая суправаджалася жорсткімі баямі на абодвух берагах ракі (гл. ў арт. *Студзенка*). Французы здолелі захапіць і ўтрымаць плацдарм на правым беразе і адначасова забяспечыць прыкрыццё гасцінца Барысаў — Студзенка. Пералом падзей на карысць рускіх адбыўся на левым беразе ў канцы дня 15(27) ліст. (капітуляцыя каля Стара-Барысава 12-й пях. дывізіі ген. Л. Партуно, уступленне ў Барысаў атрада А. М. *Сяславіна* і навядзенне тут пантоннага моста, што дазволіла мець прамую сувязь паміж Вітгенштэйнам і Чычаговым). На правым жа беразе французы цалкам валодалі ініцыятывай. Нават сканцэнтраваўшы супраць пераправы большую частку сваёй арміі, Чычагоў не змог ні ліквідаваць французскі плацдарм, ні перашкодзіць пераправе. І на левым беразе Віктар утрымліваў подступы да мастоў, пакуль не прайшлі ўсе баяздольныя часці. Раніцай 17(29) ліст. масты былі спалены, і армія Напалеона рушыла на Зембін і далей на Маладзечна. Для яе праследавання быў накіраваны авангард Чапліца, услед за ім — уся армія Чычагова. Асноўная частка корпуса Вітгенштэйна заставалася на левым беразе да 21 ліст. (3 снежня). Кутузаў даведаўся пра пачатак пераправы французаў 16(28) ліст., але не змяніў напрамак руху сваёй арміі. 19 ліст. (1 снежня) яна перайшла Бярэзіну каля в. Жукавец і працягвала марш на Смалявічы, Ракаў, Валожын, не маючы сутыхненняў з праціўнікам. Групоўка Чычагова і Вітгенштэйна была ўзмоцнена войскамі авангарда гал. сіл на чале з М. А. Міларадавічам. У Б. а. 1812 рус. камандаванне не дасягнула пастаўленых мэт у поўнай меры. Нягледзячы на шэраг спрыяльных для рус. боку фактараў (колькасная перавага, поўная стратэг. ініцыятыва перад пач. аперацыі, выгаднае геагр. размяшчэнне, дэмаралізацыя значнай часткі франц. войска, яго пастаянныя буйныя страты ад голаду і маразоў), ядро напалеонаўскай арміі, яе баяздольныя часткі прарваліся з акружэння. Галоўную ролю адыграў той факт, што армія Чычагова не здолела замацавацца на левым беразе Бярэзіны і, не атрымаўшы дапамогі ад войск Вітгенштэйна і Кутузава, была вымушана перайсці да абароны. Стратэгічная ідэя Кутузава аб «паралельным праследаванні» праціўніка аказалася неажыццявімай ва ўмовах аперацыі трыма самастойнымі групоўкамі. Для арміі Напалеона панесеныя ў ходзе аперацыі незаменныя страты (да 70 тыс. чал., гал. чынам у час пераправы) азначалі немагчымасць працягваць вайну далей. У снеж. 1812 баявыя дзеянні рэшткаў франц. войска зводзіліся да забеспячэння найхутчэйшага адступлення за межы Расіі. Руская армія шырокім фронтам павяла наступленне на Вільню, уклініўшыся паміж флангавымі карпусамі праціўніка (у Курляндыі і Падляшшы) і прымусіла іх да паспешлівага адыходу. Вынікі Б. а. 1812 канчаткова вызначылі перамогу Расіі ў Айч. вайне.

*Літ.:* Харкевич В. Березина, 1812 г.: Воен.-ист. исслед. Спб., 1893; Березинская операция в войну 1812 г.: Зап. графа Ланжерона. Спб., 1899; Мазинг Г. Ю., Ерусалимчик Л. Ф. Березина, год 1812-й. Мн., 1991; Chapuis F. C. Campagne de 1812 en Russie. Bérézina. Paris, 1857; Vlijmen B. R. F. van. Vers la Bérésina (1812). D'apres des documents nouveaux. Paris, 1908; Muralt A. von, Legler T. Beresina. Erinnerungen aus dem Feldzug Napoleons I in Russland 1812. Bern, 1940.

*В. В. Антонаў.*

**БЯРЭ́ЗІНСКАЯ ВО́ДНАЯ СІСТЭ́МА,** частка штучнага воднага шляху, што звязваў басейн Зах. Дзвіны з басейнам Дняпра. Вядома, што шлях з Дзвіны і Лепельскіх азёр у Днепр выкарыстоўваўся ўжо ў 16 ст. Паводле рэвізіі Полацкага ваяводства 1586 (зроблена падскарбіем дворным ВКЛ Ф. Скуміным і падкаморыем віцебскім кн. Ю. Друцкім-Сакалінскім), шлях пачынаўся з порта на воз. Лепель, які месціўся пад сценамі аднайменнага замка і дзе зыходзіліся 2 найважнейшыя гасцінцы — з Віцебска на Вільню і з Магілёва на Дзісну. З воз. Лепель плылі ў р. Бярэшчу, далей да вярхоўяў р. Аканічы, з яе ў воз. Окана, адкуль да воз. Плаўна грузы перацягвалі волакам, затым траплялі ў р. Сергуч і з яе ў р. Бярэзіну (прыток Дняпра). У 1631 кароль Рэчы Паспалітай Жыгімонт III Ваза правёў праз сойм канстытуцыю (пастанову) аб капанні ў гонар яго сына Уладзіслава «новага порта» (канала), які б злучыў вярхоўі Бярэзіны і Віліі (прыток Немана). Але, стаўшы ў наступным годзе каралём, Уладзіслаў сканцэнтраваў увагу і сродкі на знешняй палітыцы, ідэя будаўніцтва канала была забыта. Другі варыянт гэтай ідэі, які прадугледжваў злучэнне Бярэзіны з Зах. Дзвіною, прапанаваў паміж 1765—72 Ф. Ф. Чакі. Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай (канец 18 ст.) яго матэрыялы разам з інш. картаграфічнымі распрацоўкамі трапілі ў Пецярбург, дзе былі выкарыстаны ўпраўляючым воднымі шляхамі Расіі Я. Я. Сіверсам. Па яго даручэнні ген.-м. Герман распрацаваў праект будаўніцтва Б. в. с. (зацверджаны 23.2.1797). Непасрэднае выкананне праекта было ўскладзена на інжынера-ген. дэ Вітэ, агульнае кіраўніцтва ажыццяўляў Сіверс, які з 1798 (пачатак будаўнічых работ на Бярэзінскай сістэме) узначаліў спецыяльна створаны Дэпартамент водных камунікацый. У 1805 па новым водным шляху прайшлі першыя плыты. Агульная яго даўжыня склала 169 км. Пачынаўся з р. Бярэзіна, праходзіў цераз р. Сергуч і Сергуцкі канал, азёры Манец і Плаўна, Бярэзінскі канал, воз. Бярэшча, р. Бярэшча і Верабскі канал, р. Эса, воз. Лепельскае і р. Ула да р. Зах. Дзвіна. У 1810 пачалася рэканструкцыя канала, былі расчышчаны мелі і ўмацаваны берагі. Сталі дзейнічаць 3 пастаянныя прыстані (Сергуцкая, Лепельская і Чашніцкая), 14 шлюзаў, злучальныя і абводныя каналы. Аднак далейшыя спробы дастасаваць сістэму да праходжання суднаў не далі вынікаў, яна засталася плытасплаўной. Штогод па Б. в. с. сплаўлялася лесу (пераважна з Мінскай губ.) у сярэднім на суму 750 млн. руб. серабром. З канца 19 ст. ў сувязі са з'яўленнем чыгункі

водная камунікацыя страціла гасп. значэнне. Гідразбудаванні паступова разбурыліся, каналы абмялелі, сістэма перастала быць транспартным сродкам.

*Літ.:* Истомина Э. Г. Водные пути России во второй половине XVIII — начале XIX века. М., 1982.

*Л. Р. Казлоў, М. А. Ткачоў.*

**БЯРЭ́ЗІНСКІ РАЁН.** Размешчаны на У Мінскай вобл. Пл. 1,9 тыс. км$^2$, нас. 35,6 тыс. чал. Цэнтр — г. *Беразіно.* Тэр. раёна знаходзіцца ў межах Цэнтральнабярэзінскай раўніны. Працякае рака Бярэзіна з прытокамі Уша, Жорнаўка, Уса, Брусята, Клява, Манча. Праходзяць аўтамаб. дарогі Мінск — Магілёў, на Клічаў, Барысаў, Новалукомль.

Раён утвораны 17.7.1924 у Барысаўскай акрузе. 20.8.1924 падзелены на 15 сельсаветаў: Арэшкавіцкі, Багушэвіцкі, Белічанскі, Брадзецкі, Бярэзінскі, Валоўніцкі (з 21.8. 1925 Каменна-Бродскі), Высакагорскі, Дзмітравіцкі, Дулебскі, Капланецкі, Мачаскі, Машчаніцкі, Нягоніцкі, Пагосцкі, Перавозскі. З 9.6.1927 да 26.7.1930 у складзе Мінскай акругі 25.7.1931 да раёна далучаны Сялібскі і Якшыцкі сельсаветы ліквідаванага Свіслацкага р-на.

У 1925 у Б. р. каля 50 тыс. жыхароў. Дзейнічала 13 прамысл. прадпрыемстваў, 17 млыноў (у т. л. 11 уласных), 48 школ, бальніца, 2 медпункты. У 1927 у раёне 6 спажывецкіх і 4 с.-г. кааператывы. Кааперацыяй было ахоплена каля 44 % насельніцтва раёна. Працавалі 10 смалакурных, 7 цагельных, вапнавы, бандарнаапрацоўчы з-ды. У 1928 у в. Гарадзішча створана першая с.-г. камуна. Масавая калектывізацыя пачалася ў Б. р. ў 1929. Як і ўсюды, яна суправаджалася высылкай заможных сялян. У 1930 толькі з вёсак Багушэвіцкага сельсавета выслана 17 сем'яў, а іх маёмасць канфіскавана. На пач. 1934 створаны 151 калгас. На 1941 у калгасах і МТС было 107 трактароў, 27 камбайнаў. На 1936 у Б. р. 90 школ, у т. л. 72 пачатковыя, 17 сямігадовых, сярэдняя (Беразіно). На пач. 1941 у раёне 4 бальніцы, 5 сельскіх амбулаторый, 13 фельчарскіх пунктаў. Першыя радыёўстаноўкі ў сельсаветах раёна з'явіліся ў 1930. З 20.2.1938 Б. р. уваходзіць у Магілёўскую вобл.

У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1941 у прыфрантавым Б. р. створаны асобны знішчальны атрад «Васільева», які пасля акупацыі раёна ў ліпені 1941 стаў партызанскім. Ням.-фаш. захопнікі знішчылі ў Б. р. больш за 3 тыс. чал., вывезлі ў Германію 1,5 тыс. чал. Эсэсаўцамі знішчаны вёскі Баравіно і Краснае разам з жыхарамі. На тэр. раёна дзейнічалі падп. райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ, Бярэзінская ваенна-аператыўная група, партыз. брыгады 8-я Рагачоўская, імя Шчорса, «Чырвоны Сцяг», партыз. палкі 15-ы, 208-ы імя Сталіна і 277-ы; асобныя партыз. атрады 25, 115, 278, 345, 620-ы імя Чапаева, фарміраванні партыз. злучэння «Трынаццаць». Частка раёна ўваходзіла ў *Клічаўскую партызанскую зону.* Выдавалася падп. газ. «Сцяг Леніна». Актыўная дзейнасць партызан на тэр. раёна выклікала шматлікія карныя аперацыі гітлераўцаў. У маі 1943 супраць партызан Б. р., Клічаўскага і сумежных з імі раёнаў праводзілася карная аперацыя «Хрушч», у якой удзельнічала 45 тыс. гітлераўцаў. Аднак партызаны прарвалі блакаду і выйшлі з акружэння. Раён вызвалены часцямі 42-й і 153-й стралк. дывізій пры падтрымцы падраздзяленняў 90-га стралк. палка 95-й стралк. дывізіі 49-й арміі 2-га Бел. фронту ў пачатку ліп. 1944 у ходзе *Мінскай аперацыі 1944.* Да 1948 гаспадарка Б. р. ў асн. адноўлена.

З 20.9.1944 раён у Мінскай вобл. 25.12. 1962 Б. р. ліквідаваны. Тэр. перададзена Чэрвеньскаму р-ну. 6.1.1965 Б. р. утвораны зноў. На 1.1.1991 у раёне 218 сельскіх нас. пунктаў, 14 сельсаветаў: Багушэвіцкі, Брадзецкі, Бярэзінскі, Высакагорскі, Дзмітравіцкі, Каменнаборскі, Капланецкі, Ляжынскі, Мачаскі, Пагосцкі, Паплаўскі, Сялібскі, Ушанскі, Якшыцкі. 20 калгасаў, саўгас, якія спецыялізуюцца на малочна-мясной жывёлагадоўлі, ільнаводстве; пашыраны пасевы збожжавых культур, бульбы. Дзейнічаюць прадпрыемствы буд. матэрыялаў, лёгкай, паліўнай і харч. прам-сці. У раёне 20 сярэдніх школ, 8 васьмігадовых, 2 пачатковыя, дзіцячыя спартыўная і музычная школы, 35 дашкольных устаноў, 27 дамоў культуры, клубаў, 36 бібліятэк, 43 кінаўстаноўкі, паліклініка, 5 бальніц, 27 фельчарска-акушэрскіх пунктаў. Выдаецца раённая газ. «Сцяг Леніна».

Найб. значныя археал. помнікі: Багушэвічы, Бярозаўка, Гарадзішча, Гута, *Дзмітравічы,* Дулебы, Жорнаўка, Капланцы, Карбоўскае, Котава, Курганне, Міраслаўка, Мурава, Прыбрэжнае, Святліца, Уша, *Чыжаха,* Чырвоная Зорка і інш. Брацкія магілы сав. воінаў і партызан (вёскі Вяшэўка, Жорнаўка, Жукавец, Капланцы, Краснае, Кукарава, Мацевічы, Пагост, Якшыцы і інш.), чырвонаармейцаў (вёскі Дулебы, Жарамец, Капланцы, Чырвоны Бераг), магілы ахвяр фашызму (вёскі Баравіно, Дзевяніца, Дулебы, Замасточча, Капланцы, Навасёлкі, Паплавы). Помнікі: М. В. Рыбачонку (в. Багушэвічы), сав. воінам-вызваліцелям (в. Жорнаўка), у гонар 1-й падп. парт. канферэнцыі Бярэзінскага р-на (в. Галынка) і Бярэзінскага падп. РК КП(б)Б (в. Шавярніца). Помнік архітэктуры — касцёл (сярэдзіна 19 ст., в. Багушэвічы). Радзіма жывапісцаў В. Ваньковіча, братоў Гараўскіх.

*Літ.:* Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах. Т. 1. Мн., 1936; Иоффе Э. Г. Березино: Ист.-экон. очерк. Мн., 1986.

*Э. Р. Іофе.*

**БЯРЭ́ЗІНСКІЯ АПЕРА́ЦЫІ 1920,** баявыя дзеянні на Беларусі войск Зах.

фронту Чырв. Арміі ў грамадз. вайну. *Гл. Майская аперацыя 1920, Ліпеньская аперацыя 1920.*

**БЯРЭ́ЗІНСКІЯ ВЫСТУПЛЕ́ННІ ПРАЦО́ЎНЫХ 1905.** Першае паліт. выступленне рабочая арг-цыя мяст. Беразіно Ігуменскага пав. падрыхтавала да гадавіны забойства нарадавольцамі Аляксандра II. 28.2 (13.3).1905 яна выдала гектаграфаваную адозву з заклікам да аднадзённай забастоўкі. 1(14) сак. забаставалі чаляднікі кравецкіх, шавецкіх і панчошных майстэрняў. Каля 70 стачачнікаў накіраваліся на вяровачны з-д Б. Старобінца і дамагліся спынення работы. Затым з удзелам сялян адбыўся сход у лесе (250 чал.) і маніфестацыі ва ўрочышчы Пятроў Вугал і ў в. Трасцянка. Вярнуўшыся ў мястэчка, маніфестанты арганізавалі мітынг. На наступны дзень рабочая арг-цыя выдала лістоўку, прысвечаную гэтым падзеям. Мінскі губернатар накіраваў у Беразіно паўэскадрона драгунаў. 1(14) мая і 6(19) чэрв. антыўрадавыя вулічныя дэманстрацыі паўтарыліся. 30.6 (13.7).1905 у Беразіно ў знак салідарнасці з рабочымі Адэсы, Іванава-Вазнясенска, Лодзі аб'яўлена агульная аднадзённая забастоўка. Баставалі ўсе рабочыя, рамеснікі, работнікі гандлю, распаўсюджваліся пракламацыі з тлумачэннем падзей у названых гарадах. У лесе адбылася сходка. Вечарам у мястэчку праведзена дэманстрацыя (500 чал.) з чырв. і чорным сцягамі, рэв. песнямі і заклікамі «Далоў самадзяржаўе!», «Далоў урад!», «Далоў вайну!», «Няхай жыве сацыял-дэмакратычная партыя!». Перад будынкам пошты і кватэрай станавога прystава дэманстранты спыняліся і наладжвалі мітынг. У пачатку ліп. 1905 з эканам. патрабаваннямі баставалі кухаркі і 50 грузчыкаў, некаторыя з іх былі арыштаваны. 23—25.7 (5—7.8).1905 у Беразіно адбыліся мітынгі і дэманстрацыі. 28 ліп. (10 жн.) працоўныя мястэчка ў гонар паўгадавіны рэвалюцыі правялі 2 мітынгі і вулічную дэманстрацыю з удзелам 1 тыс. чал. На мітынгах 30 ліп. (12 жн.), 10(23) і 12(25) жн. яны падтрымалі рэв.-дэмакратычны заклік да байкоту Булыгінскай думы. Рабочыя і рамеснікі Беразіно ў ліку першых на Беларусі ўключыліся ва Усерасійскую Кастр. паліт. стачку. 9(22) кастр. ў мястэчку адбыліся 2 вулічныя дэманстрацыі і маніфестацыі, 22 кастр. (4 ліст.) каля 2 тыс. жыхароў мястэчка прынялі ўдзел у дэманстрацыі пратэсту супраць рэпрэсій царызму і чарнасоценных пагромаў, *курлоўскага расстрэлу 1905* у Мінску. Яны прайшлі па вуліцах з чырв. і чорным сцягамі, рэв. песнямі і воклічамі. Вулічныя мітынгі і дэманстрацыі адбываліся, як правіла, пад аховай узбр. дружыннікаў. Кастрычніцкія выступленні завяршылі паласу ўздыму рэв. руху ў Беразіно.

*Літ.:* 1905 год у Беларусі: Зб. арх. дакументаў. Мн., 1926; Майзель Л. Н. 1905—1907 гг. на Беларусі: Хроніка падзей. Мн., 1934; Революционное движение в Белоруссии 1905—1907 гг.: Документы и материалы. Мн., 1955. *М. В. Біч.*

**БЯРЭ́МА ПАВО́ЗНАЕ,** бярэма павазовае, павіннасць сялян і мяшчан у ВКЛ даваць падводы для перавозкі грузаў, на будаўніцтва замкаў, дарог, мастоў і інш. Паводле *Статута Вялікага княства Літоўскага 1588,* ад Б. п. вызваляліся сяляне і мяшчане прыватнаўласніцкіх вёсак, мястэчак і гарадоў.

**БЯРЭ́СЦЕ,** летапісная назва *г. Брэст.*

**«БЯРЭ́СЦЕ»,** археалагічны музей у Брэсце. Заснаваны ў 1972. Адкрыты 2.3.1982 на тэр. Валынскага ўмацавання Брэсцкай крэпасці як філіял Брэсцкага абл. краязнаўчага музея ў новым спецыяльным будынку (аўтар праекта М. К. Вінаградаў, гал. інжынер А. М. Кім). Мае 14 экспазіц. залаў, пл. экспазіцыі 2400 м², больш за 42 тыс. экспанатаў (1992). Музей знаёміць з паліт., эканам. і культурным развіццём Бярэсця ў 11—14 ст. Асн. экспазіцыя ўключае больш як 30 выяўленых у выніку археал. раскопак гарадзішча Брэста драўляных жылых і гасп. пабудоў, рэшткі маставых, частаколаў, якія дзякуючы кансервуючым якасцям магутнага культурнага пласта добра захаваліся на вышыню 12 вянкоў. Для захавання рэшткаў стараж. пабудоў супрацоўнікі Бел. тэхналагічнага ін-та імя С. М. Кірава Ю. В. Віхроў, У. А. Барысаў, С. Ю. Казанская пад кіраўніцтвам прафесара В. Я. Віхрова распрацавалі і ўпершыню ажыццявілі ў 1970—73 метад кансервацыі драўляных збудаванняў у палявых умовах. У залах музея экспануюцца прылады працы (сярпы, косы, ліцейная форма, акоўкі, нажы, жорны, лапаты і інш.), прадметы ўзбраення і амуніцыі конніка (наканечнікі коп'яў і стрэл, шпоры, фрагменты даспехаў, кальчугі і інш.), прадметы быт. прызначэння (замкі, ключы, крэсівы, дзвярныя кольцы і прабоі і інш.), жаночыя ўпрыгожанні (бранзалеты, падвескі, пацеркі, фібулы і інш.), вырабы з дрэва, скуры, косці. Сярод экспанатаў рэдкія знаходкі — самшытавы грэбень з выразанымі кірылічнымі літарамі, касцяны мастыхін, метал. пісала, касцяная шахматная фігурка (кароль) і інш.

*Літ.:* Лысенко П. Ф Берестье. Мн., 1985; *Яго ж.* Открытие Берестья. Мн., 1989. *Р. Я. Іванова, П. Ф. Лысенка.*

Археалагічны музей «Бярэсце».

**БЯССО́НАЎ** Пётр Аляксеевіч [4(16).6.1828, Масква — 22.2(6.3).1898], рускі фалькларыст-славіст, гісторык літаратуры. Скончыў Маскоўскі ун-т (1851). У 1864—67 узначальваў *Віленскую археаграфічную камісію.* З 1879 праф. кафедры слав. гаворак Харкаўскага ун-та. Выдаў зборнік балгарскіх песень (т. 1—2, 1855), песень, паданняў і вусных апавяданняў сербаў (1857), песень-літанняў старцаў «Калікі вандроўныя» (вып. 1—6, 1861—64; увайшлі і бел. творы), «Песні, сабраныя П. В. Кірзеўскім» (вып. 1—10, 1860—74). У прадмове да зб. «Беларускія песні» (вып. 1, 1871; сабраны бел. карэспандэнтамі Кірзеўскага) адзначыў вял. ўклад беларусаў у супольную культуру ўсх. славян.

Разам з тым не бачыў перспектывы развіцця літаратуры на бел мове

*Літ* Цвікевіч А Погляд П Бяссонава на беларускую справу Коўна, 1922, Бандарчык В К Гісторыя беларускай этнаграфіі XIX ст Мн, 1964 С 142—145, Улащик Н Н Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода М, 1973, Беларуская фальклярыстыка Збіранне і даслед нар творчасці ў 60-х г XIX — пач XX ст Мн, 1989 С 58—64, Славяноведение в дореволюционной России Биобиблиогр справ М, 1979

*А С Ліс*

**БЯСТУ́ЖАЎ** Аляксандр Аляксандравіч [23 10(3.11) 1797, Пецярбург — 7(19) 6 1837], дзекабрыст, пісьменнік З дваран Вучыўся ў Горным корпусе У 1816 паступіў юнкерам у лейб-гвардыі драгунскі полк (у эскадрон, які стаяў у Марлі пад Пецяргофам, адсюль літ псеўданім Марлінскі) Пачаў друкавацца ў 1818 Яму належыць шэраг крытычных работ, накіраваных супраць класіцызму Летам 1821 у чыне паручніка ўдзельнічаў у манеўрах гвардыі ў Віцебскай губ., у кастр. 1821—студз 1822 жыў у в Выганічы Мінскага пав (цяпер Валожынскі р-н) у сям'і памешчыка Ф Ф Вайдзевіча, адкуль неаднаразова прыязджаў у Мінск У пісьмах у Пецярбург дзяліўся сваімі назіраннямі за жыццем бел сялян, апісваў побыт шляхты, выгляд гарадоў З 1822 ад'ютант галоўнаўпраўляючага шляхамі зносін А Ф Бетанкура, з 1823 — *Аляксандра Вюртэмбергскага* Штабс-капітан (1825) Сумесна з К Ф. Рылеевым, з якім пазнаеміўся ў 1822, пісаў агітацыйныя супрацьурадавыя песні і выдаваў альманах «Полярная звезда» (1823—25) Да 1825 напісаў некалькі раманаў у духу рамантызму У 1824 прыняты ў Паўночнае т-ва дзекабрыстаў, увайшоў у склад яго кіруючага цэнтра (Думы) Належаў да радыкальнага крыла руху выступаў за ўвядзенне рэсп ладу шляхам ваен перавароту, надзяленне сялян зямлей, выказваўся супраць высокага маемаснага цэнзу ў выбарчым праве. Напярэдадні выступлення дзекабрыстаў распрацаваў план захопу Зімняга палаца і арышту Мікалая I Актыўны ўдзельнік паўстання 14(26) 12 1825 на Сенацкай плошчы. праводзіў агітацыю ў казармах Гвардзейскага марскога экіпажа і Маскоўскага палка, вывеў апошні на плошчу, паставіў у карэ і быў яго фактычным камандзірам 15 12 1825 арыштаваны. Засуджаны па 1-м разрадзе да адсячэння галавы, пасля канфірмацыі смяротная кара заменена на 20, затым на 15 гадоў катаржных работ У 1827 адпраўлены на пасяленне ў Якуцк, у 1829 — радавым у дзеючую армію на Каўказ У ссылцы апублікаваў некалькі т зв свецкіх аповесцей («Выпрабаванне», 1830, «Фрэгат «Надзея», 1833, і інш). У каўказскіх аповесцях «Амалатбек» (1832), «Мулла-Нур» (1836) намаляваў рамантычныя характары. У аповесцях «Вечар на Каўказскіх водах у 1824 г» (1830), «Латнік» (1832) знайшлі водгук пачутыя на Беларусі нар паданні, уражанні ад зносін з жыхарамі Загінуў у сутычцы з горцамі на мысе Адлер У в Выганічы ў гонар яго пастаўлены мемарыяльны знак

А А Бястужаў.

*Тв* Полн собр соч Т 1—4 4 изд Спб, 1847, Соч Т 1—2 М, 1958

*Літ* Васильев М А Декабрист А А Бестужев как писатель-этнограф // Научно-педагогический сборник Казань, 1926 № 1, Измайлов Н В А А Бестужев до 14 декабря 1825 г // Памяти декабристов Сб материалов Л, 1926 Т 1, Котляревский Н Декабристы Кн А И Одоевский и А А Бестужев-Марлинский, их жизнь и лит деятельность Спб, 1907, Овсянникова С А А А Бестужев-Марлинский и его роль в движении декабристов // Очерки из истории движения декабристов Сб ст М, 1954, Букчин С Зимовка гвардии // Букчин С К мечам рванулись наши руки Докум повести 2 изд Мн, 1985

*В В Швед*

М П Бястужаў-Румін.

**БЯСТУ́ЖАЎ-РУ́МІН** Міхаіл Паўлавіч [23 5(4 6) 1801, с Кудрошкі Ніжагародскай губ — 13(25).7 1826], дзекабрыст З дваран З 1816 жыў у Маскве Атрымаў дамашнюю адукацыю У 1818 паступіў юнкерам на службу ў Кавалергардскі полк, з сак 1820 у лейб-гвардыі Сяменаўскім палку Пасля паўстання гэтага палка (кастр 1820) і яго расфарміравання пераведзены ў снеж 1820 у Палтаўскі пях. полк, які з 1823 размяшчаўся ў *Бабруйскай крэпасці* Падпаручнік (май 1824) У 1828 прыняты ў Паўднёвае т-ва дзекабрыстаў Сумесна з С І *Мураўёвым-Апосталам* узначальваў Васількаўскую ўправу, разам з ім і інш распрацаваў *Бабруйскі план дзекабрыстаў 1823* Перапісваў і распаўсюджваў «Рускую праўду» П І. Песцеля — праграмны дакумент Паўднёвага т-ва У 1824—25 вёў перагаворы з прадстаўнікамі польскага Патрыятычнага т-ва пра сумесныя дзеянні, садзейнічаў аб'яднанню Т-ва з'яднаных славян з Паўднёвым т-вам і кіраваў створанай «Славянскай управай» Быў са аўтарам 2 планаў паўстання ў Белай Царкве Прыхільнік ліквідацыі самадзяржаўя, знішчэння царскай сям'і і ўстанаўлення рэспублікі Уваходзіў у штаб паўстання Чарнігаўскага пях. палка (29 12 1825—3 1 1826), з Мураўёвым-Апосталам склаў рэв Катэхізіс і адозву да народа 3 1 1826 арыштаваны на полі бою Дастаўлены ў Магілёў, дзе 13—14 студз яго дапытваў нач штаба 1-й арміі К Ф Толь 15 студз адпраўлены ў Петрапаўлаўскую крэпасць Паводле прыгавору Вярх крымінальнага суда павешаны Пахаваны на востраве Галадай (цяпер востраў Дзекабрыстаў)

*Літ* Василенко В Е М П Бестужев-Рюмин Л, 1966, Мачульский Е Н Новые данные о биографии декабриста М П Бестужева-Рюмина // Исторические записки М 1975 Т 96

*В В Швед*

**В**, трэцяя літара беларускага алфавіта. Паходзіць з кірыліцкай В («ведзі»), што ўзнікла на аснове грэка-візант. устаўнай В («віта»), якая ў сваю чаргу з'яўлялася графічным аідазмяненнем класічнай грэч. β («бэта»). Адрозненне ў вымаўленні кірыліцкай В ад лацінскай В абумоўлена тым, што ў перыяд стварэння слав. алфавіта ў 9 ст. «віта» вымаўлялася грэкамі як «в» і перадала сваё гукавое значэнне кірыліцкай В («ведзі»), а лац. алфавіт узнік на аснове грэчаскага яшчэ ў 7—6 ст. да н. э., калі «бэта» абазначала гук «б». У старабел. графіку літара В перайшла са старажытнарус. пісьменства. Абазначала зычныя гукі «в», «в'» («вапна», «вншня»). Мела таксама лічбавае значэнне «2». У рукапісах 14—17 ст. у сувязі з функцыяніраваннем розных пісьмовых школ і выкарыстаннем розных тыпаў пісьма (устаў, паўустаў, скорапіс) ужывалася ў некалькіх варыянтах, якія памагаюць вызначаць час і месца напісання помнікаў. У 16 ст. дзякуючы выдавецкай дзейнасці **Ф.** *Скарыны* акрамя рукапіснай набыла друкаваную форму, сталі адрозніваецца малая і вял. літары, коць ужыванне вял. літары ва ўласных імёнах, геагр. назвах і ў пач. сказаў не было яшчэ паслядоўным. У сучаснай бел. мове абазначае санорныя фрыкатыўныя губна-зубныя гукі «в», «в'» («вада», «вясна»), якія ў адрозненне ад рус. мовы не знаходзяцца ні ў якіх функцыянальных суадносінах з шумнымі глухімі фрыкатыўнымі губна-зубнымі гукамі «ф», «ф'» і пасля галосных перад зычнымі, а таксама ў канцы слоў пераходзяць у «ў» («воўк», «спеў»). Бывае вялікая і малая, мае рукапісную і друкаваную форму. Ужываецца ў афіц. абрэвіятурах — ВАК, ВНУ. Пры класіфікацыйным падзеле мае значэнне «трэці» (група «В»), пры лічбавай нумарацыі — дадатковае значэнне для размежавання прадметаў пад адным нумарам (шыфр № 4 в). *А. М. Булыка.*

**«В БУ́РЕ»**, літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс. Выдаваў выканком Сенненскага пав. Савета рабочых і чырвонаармейскіх дэпутатаў у 1919 на рус. мове раз у 2 тыдні (№ 1, 2 датаваны 22.6 і 25.7.1919). Члены рэдкалегіі — Дз. **Ф.** *Прышчэпаў*, А. Оршын, М. Горны (М. Іванькоаіч). Друкаваліся літ. творы, разнастайныя па тэматыцы публіцыстычныя матэрыялы мясц. аўтараў, прысвечаныя падзеям грамадз. вайны і пасляваен. аднаўленню гаспадаркі. Выданне распаўсюджвалася па падпісцы бясплатна. *П. Л. Дарашчонак.*

**ВА́ВЕРКА**, вёска ў Лідскім р-не. Цэнтр сельсавета. За 27 км на ПдЗ ад Ліды, 14 км ад чыг. ст. Курган, на шашы Астрына — Ліда. 453 ж., 163 двары (1992).

Магчыма, першапачатковая гісторыя вёскі звязана з летапісным горадам *Веярэск.* У пісьмовых крыніцах згадваецца ў 1413, калі Міхаіл Галігінавіч заснаваў тут касцёл Святога Францішка. У дакументах 15—16 ст. называецца Вялікай або Старой Ваверкай у адрозненне ад Малой (Новай) Ваверкі, што знаходзілася непадалёку. У 1463 удава Міхаіла Галігінавіча Соф'я і іх сын Жыгімонт пацвердзілі праавы касцёла Святой Тройцы ў В. У 1496 уладальнікам Вялікай В. быў Мікалай, сын Жыгімонта, у пач. 16 ст.— харужы земскі Мікалай Юндзілавіч. У 1522 В. належала Янушу Касцевічу — ваяводу падляшскаму, маршалку і дзяржаўцу гожскаму, пераломскаму і радунскаму. Здаўна В. адносілася да ліку багатых парафій Віленскага біскупства. У 1559 у ёй налічвалася 54 дымы. У 1568 касцёл у В. быў перададзены кальвіністам, у 1648 вернуты католікам. У 1570 — мястэчка Лідскага пав., у 1617 належала А. Галеўскаму. Падчас *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* мястэчка і касцёл разбураны. З 1795 В. ў складзе Расійскай імперыі, у Мытлянскай вол. Лідскага пав. У 1840 С. Кастравіцкі пабудаваў тут каменны касцёл на месцы старога. У 1881 73 ж., касцёл, карчма. У час. 1-й сусв. вайны з 1915 В. акупіравана германскімі войскамі. З 1921 у складзе Польшчы. З 1939 у БССР, з 12.10.1940 цэнтр сельсавета Лідскага р-на. У час Вял. Айч. вайны ў чэрв. 1941 — ліп. 1944 акупіравана ням.-фаш. войскамі. У 1970 было 248 ж., 93 двары. У складзе калгаса імя Чапаева. Сярэдняя школа, бальніца, аптэка, Дом культуры, аддз. сувязі, гандл. цэнтр.

*Літ.:* Kodeks dyplomatyczny katedry i diecezji wileńskiej. T. 1. Kraków, 1948. № 237, 247, 312. *В. У. Шаблюк.*

Літара «В»: *1* — устаў 11 ст.; *2* — скорапіс *15* ст.; *3* — паўустаў *15* ст.; *4* — скорапіс *16* ст.; *5* — шрыфт Ф. Скарыны *16* ст.; *6* — Статута ВКЛ 1588; *7* — паўустаў *16* ст.; *8* — скорапіс 17 ст.; *9* — друкаваная 17 ст.; *10* — паўустаў *17* ст.; *11* — грамадзянская 18 ст.

**ВАВІ́ЛАЎ** Максім Андрэевіч [27.7(9.8). 1903, Полацк — 11.7.1960], ген.-лейтэнант (1955). У Чырв. Арміі з 1924. Скончыў Аб'яднаную бел. ваен. школу імя ЦВК БССР (1927), ваен. акадэміі імя Фрунзе (1936), Генштаба (1948). Удзельнік баёў каля воз. Хасан у 1938. У 1942—44 нач.штаба арміі Далёкаўсх. фронту. З 1944 у Генштабе Сав. Арміі. З 1954 нач. штаба Забайкальскай ваен. акругі, у 1956—59 у ваенна-навуч. установах.

**ВА́ГНЕР** Генрых Матусавіч (н. 2.7.1922, г. Жырардаў, Польшча), беларускі кампазітар. Засл. дзеяч мастацтваў Беларусі (1963). Вучыўся ў Варшаўскай кансерваторыі (1936—39). З 1939 у БССР скончыў Бел. кансерваторыю па класах фартэпіяна (1948) і кампазіцыі (1954). З 1962 выкладае ў Мінскім пед. ін-це. У 1963—73 адказны сакратар праўлення Саюза кампазітараў Беларусі. Аўтар оперы «Сцежкаю жыцця» (лібрэта А. Вярцінскага і С. Штэйна па матывах аповесці В. Быкава «Воўчая зграя», паст. 1980), першай бел. тэлеоперы «Ранак» (лібрэта Я. Шабана па матывах паэмы А. Куляшова «Песня аб слаўным паходзе», паст. 1967), балетаў «Падстаўная нявеста» (паст. 1958), «Святло і цені» (паст. 1963), «Пасля балю» (паст. 1971), араторыі «Кастрычнік» (словы А. Вольскага, 1978), кантаты «Прызнанне Радзіме» (словы С. Грахоўскага, 1978), вакальна-сімфанічных паэм «Вечна жывыя» (1959), «Героям Брэста» (словы Р. Барадуліна, 1975, прэмія Ленінскага камсамола Беларусі 1976), трох сімфоній і інш. Значны ўклад зрабіў у развіццё жанру бел. інструментальнага канцэрта (канцэрты для фартэпіяна, скрыпкі, віяланчэлі, кларнета, цымба-

лаў) Піша музыку для дзяцей, да драматычных спектакляў і фільмаў

*Літ* Нісневіч С Г Генрых Вагнер Мн, 1969 *Р М Аладава*

**ВАДАРА́ДЗКІЯ**, старажытны шляхецкі род герба «Побуг» у ВКЛ Першым з В згадваецца Пшэцлаў (1400) У крыніцах упамінаюцца Аляксандр, дваранін каралеўскі, староста кернаўскі, В (імя невядома), цівун кернаўскі (1494), Мікалай, маршалак віленскага ваяводы Гаштольда, Мікалай, староста магілеўскі, Андрэй, ротмістр вількамірскі, Матэвуш, падчашы ковенскі (1638), Якуб, пісар земскі ашмянскі, Аляксандр, служыў пры двары гетмана ВКЛ М Радзівіла, Ян Мікалаевіч, пісар веліжскі (1769)

*Р В Баравы, Л Л Чарняуская*

**ВАДЗЯНІ́К**, у старадаўніх павер'ях беларусаў і іншых народаў — уладар вадаемаў, жывых істот у іх В звычайна ўяўлялі ў выглядзе старога з зяленай барадой, доўгімі валасамі, расплывістым тварам, укрытага водарасцямі і цінай Лічылі, што В жыве ў вірах рэк, асабліва каля млыноў («вірнік»), на дне азер, крыніц, глыбокіх калодзежаў («ціхоня») Яму прыпісвалі рух і памутненне вады, пару над ей, разлівы рэк, псаванне рыбалоўных прылад, разбурэнне плацін, млыноў, гібель людзей і жывел у вадзе

*Літ* Токарев С А Религиозные верования восточнославянских народов XIX — начала XX в М, Л, 1957, Ляцкий Е А Представления белоруса о нечистой силе // Этногр обозрение 1890 № 4

*М Ф Пілipенка*

**ВАДЗЯНЫ́Я ЗНА́КІ**, філігрань (італьян filigrana ад лац filum нітка + + granum зерне), бачныя на прасвет відарысы на паперы, якія наносяцца ў працэсе яе вырабу, своеасаблівая марка вытворцы паперы або папяровых млына ці фабрыкі Вывучэнне В з мае важнае значэнне для правільнага датавання пісьмовых крыніц, вылучаецца ў асобную галіну палеаграфіі — філіграналогію

Упершыню В з з'явіліся ў Італіі ў 13 ст Для вырабу такой паперы да канца 18 ст выкарыстоўвалі льняныя і баваўняныя анучы, пазней — раслінныя валокны Прыгатаваную масу разлівалі ў формы, на дне якіх замацоўвалі драцяныя сеткі (звычайна медныя) і фігуры Папяровая маса, што асядала на дроце, была больш тонкая, таму пры адпаведным асвятленні на гатовых лістах паперы былі відаць прагалы Пры актыўным выкарыстанні драцяную сетку мянялі праз год, медныя фігуры — праз некалькі гадоў, а сярэбраныя — праз некалькі дзесяцігоддзяў Кожная *папярня* (нярэдка і майстры) пазначала сваю паперу асобнымі В з На бел актах і рукапісах 14—15 ст захаваліся стараж знакі на паперы заходнееўрап вытворчасці У 15—16 ст. многія папярні Еўропы выраблялі паперу з В з «галава быка» розных варыянтаў, на якой друкаваў свае кнігі Ф Скарына З 2-й чвэрці 16 ст першыя В. з з'явіліся на мясц паперы ВКЛ, выробленай на папярнях Радзівілаў у Слуцку, Любані, Алыку, у 1570 — канцы 17 ст на папярнях Кавяч



Вадзяныя знакі на паперы 1 — Полацкага евангелля (15 ст), 2 — «Апостала» (1460), 3—4 — Біблейскага зводу (1-я пал 16 ст і 1514), 5 — мінеі (16 ст), 6, 7 — «Псалтыра» Ф Скарыны (1517 і 1522), 8 — рукапіснага зборy з прадмовай В Цяпінскага (1570-я гады) 9 — рукапісу твораў І Кунцэвіча (каля 1610), 10 — паслання слуцкага архіепіскапа М Казачынскага (1753)

чынскіх у Нясвіжы і Уздзе, Сапегаў у Гальшанах Асн сюжэтамі В з на паперы мясц вытворчасці 16—19 ст былі гербы шляхецкіх родаў «Габданк» (Гаштольды, Даўгялы, Гарабурды), «Ліс» (Сапегі, кнігавыдаўцы Мамонічы), «Аднагаловы арол» (Радзівілы), «Магіла з адменай» (Быхаўцы), «Дубрава» (Кішкі), «Багорыя» (Валовічы), «Лявіва» (Тышкевічы), «Пагоня» (Сангушкі, Чартарыйскія) У 18—19 ст распаўсюджаны таксама В з ў выглядзе чалавечых фігур, выяў жывел, рыб, птушак, раслін, рэчаў (сякера, меч, карона, дзяржава) або філіграні з літарамі (без фігурных выяў) на паперы, што выпускалі ў Вільні, Гродне, Супраслі, Бржэльцах (Лідскі пав), Дзятлаве (пад Слонімам) У 19—20 ст удасканальвалася тэхналогія выпрацоўкі В з, яны ўтвараліся на бесперапыннай папяровай стужцы з дапамогай рэльефнага валіка (згуцера) У сучасны перыяд паперу з В з выкарыстоўваюць на выраб каштоўных дакументаў, грошай, аблігацый з мэтай прадухіліць іх падробку. Аналіз В. з даў магчымасць устанавіць некалькі выданняў Статутаў ВКЛ 1588 і 1619, дакладна датаваць асобныя друкаваныя кнігі, высветліць час стварэння рэдкіх бел рукапісаў (кодэкс 262, «Евангелле» Васіля Цяпінскага) і інш

*Літ* Лихачев Н П Бумага и древнейшие бумажные мельницы в Московском государстве М, 1891, Шчакаціхін М Scoriniana Да пытаньня аб хронолегіі «Малой Падарожнай Кніжыцы» Скарыны // Зап аддз гуманіт навук Ін-та бел культуры Кн 3 Працы клясы гісторыі Мн, 1928, т 2, Клепиков С А Филиграни и штемпели на бумаге русского и иностранного производства XVII—XX века М 1959, Лауцявичюс Э Бумага в Литве в XV—XVIII веках Вильнюс, 1979, Uchastkina Z V A history of russian hand paper-mills and their watermarks // Monumenta chartae papyraceae historiam illustrantia Hilversum Amsterdam, 1962 Vol 9, Siniarska Czaplicka J Młyn papierniczy w Supraślu // Przegląd Papierniczy 1962 R 18 № 8 *Г Я Галенчанка*

**ВАДКО́ЎСКІЯ**, дзекабрысты, браты З дваран Віцебскай губ

Іван Федаравіч (1790—?), палкоўнік, камандзір батальёна ў Сяменаўскім палку За спачуванне салдатам у час выступлення ў палку (1820) у Пецярбургу прыгавораны да пакарання смерцю, якое заменена турмой Да 1826 у віцебскай турме У 1829 высланы ў дзеючую армію на Каўказ

Федар Федаравіч [1800—8(20) 1 1844], прапаршчык Нежынскага палка. Член Паўд. т-ва з 1823 Стаяў за рэсп лад у Расіі, за знішчэнне царскай сям'і 9(21) 12 1825 арыштаваны і засуджаны да пакарання смерцю, якое заменена пажыццёвай катаргай. З 1839 на пасяленні ў Іркуцкай губ Аўтар рэв. вершаў і музыкі да песні «Славянскія дзевы».

Аляксандр Федаравіч (каля 1801 — пасля 1837), падпрапаршчык Сяменаўскага палка За спачуванне салдатам у час выступлення ў палку (1820) у Пецярбургу пераведзены ў Крамянчугскі полк, пазней у 17-ы Егерскі Член Паўд т-ва з 1823 У час паўстання Чарнігаўскага палка [29 12 1825 (10 1 1826) — 3(15) 1.1826] планаваў падняць свой полк у падтрымку, але ў ноч на 31 12 1825 быў арыштаваны Пасля зняволення ў Петрапаўлаўскай крэпасці ў ліп 1826 высланы ў дзеючую армію на Каўказ З 1830 пад тайным наглядам паліцыі ў Тамбоўскай губ

*Літ* Избранные социально-политические и философские произведения декабристов Т 3 М 1951, Восстание декабристов Материалы Т 1 М Л, 1925, Довнар-Запольский М В Мемуары декабристов Киев 1906 Горбачевский И И Записки письма М, 1963 Декабристы Новые материалы М 1955, Декабристы Неизданные материалы и статьи М 1925

*М Ф Мельнікау*

**ВАДО́ХРЫШЧА,** зімовае свята бел. народнага календара (адзначаецца 6 студз. ст. стылю). Ім завяршаліся *Каляды.* Хрысціянская рэлігія звязвае В. з хрышчэннем Ісуса Хрыста Іаанам Хрысціцелем на рацэ Іардан. У гэты дзень у цэрквах адбываецца асвячэнне вады. Свянцоную ваду давалі выпіць хвораму, ёю апырсквалі хату, поле перад сяўбой, хатнюю жывёлу, хату перад засяленнем, труну перад тым, як пакласці нябожчыка. На В. варажылі пра будучую гаспадарку, дзяўчаты варажылі пра суджанага. Свята звычайна супадала з самымі халоднымі днямі зімы.

*Літ.:* Богданович А. Е. Пережитки древнего миросозерцания у белорусов: Этногр. очерк. Гродно, 1895; Никифоровский Н. Я. Простонародные приметы и поверья, суеверные обряды и обычаи, легендарные сказания о лицах и местах. Витебск, 1897; Токарев С. А. Религиозные верования восточнославянских народов XIX — начала XX в. М.; Л., 1957.

*У. А. Васілевіч.*

**ВАЕ́ННА-АПЕРАТЫ́ЎНЫЯ ГРУ́ПЫ** ў Вялікую Айчынную вайну, ВАГ, партызанскія злучэнні на акупіраванай тэр. Магілёўскай вобл.; назва органаў кіраўніцтва гэтымі злучэннямі. Яднаві партыз. палкі, брыгады, асобныя атрады. У крас. 1943 пры Магілёўскім падп. абкоме КП(б)Б для аператыўнага кіравання партыз. рухам на тэр. вобласці створана Магілёўская абл. ВАГ. Адначасова створана *Магілёўскае партызанскае злучэнне,* якое таксама называлася Магілёўская ВАГ. У яго ўвайшлі партыз. брыгады і атрады, што дзейнічалі на тэр. вобласці. У ліп.— жн. 1943 Магілёўскі падп. абком КП(б)Б у складзе абласнога злучэння стварыў раённыя ВАГ: Асіповіцкую, Быхаўскую, Бялыніцкую, Бярэзінскую, Кіраўскую, Клічаўскую, Круглянскую, Магілёўскую і Шклоўскую. У мэтах узмацнення парт. кіраўніцтва партыз. рухам у аддаленых раёнах вобласці, што размяшчаліся на У ад Дняпра і не мелі дастаткова тэхнічных сродкаў сувязі, створаны ў крас. 1943 Паўд.-Усх. і Паўн.-Усх. зоны. Кіраўніцтва імі ажыццяўлялі ўпаўнаважаныя абкома КП(б)Б. У канцы ліст. 1942 у Магілёўскую вобл. перайшла 8-я Рагачоўская партыз. брыгада, якая таксама пераўтворана ў Рагачоўскую ВАГ (сак. 1944). Партыз. ВАГ, палкі, брыгады і атрады расфарміроўваліся па меры вызвалення тэр. вобласці часцямі Чырв. Арміі.

*Літ.:* Всенародная борьба в Белоруссии против немецко-фашистских захватчиков в годы Великой Отечественной войны. Т. 1—2. Мн., 1983—84; Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944). Мн., 1983.

*А. Л. Манаенкаў.*

**ВАЕ́ННАЕ СТАНО́ВІШЧА,** спецыяльны прававы рэжым, які ўводзіцца дзяржавай ва ўсёй краіне або ў асобных яе мясцовасцях у надзвычайных абставінах (вайна, рэв. выступленні, стыхійныя бедствы). Выяўляецца ў расшырэнні паўнамоцтваў ваен. улад і ўвядзенні абмежаванняў для насельніцтва. У Расійскай імперыі да канца 19 ст. рэжым В. с. ўводзіўся ў кожным канкрэтным выпадку іменнымі ўказамі цара. З пачаткам *паўстання 1830—31* у Польшчы, на Беларусі і ў Літве указам Аляксандра І ад 1.12.1830 В. с. ўведзена ў Віленскай, Гродзенскай, Мінскай, Валынскай, Падольскай губернях і Беластоцкай вобл. (адменена 22.1.1832). У час *паўстання 1863—64* у Польшчы, на Беларусі і ў Літве на В. с. былі аб'яўлены Віленская, Віцебская, Гродзенская, Магілёўская, Мінская і Ковенская губ. У краі дзейнічалі следчыя камісіі і ваенна-палявыя суды. Жыхары мужч. полу (акрамя сялян) не мелі права без дазволу начальства аддаляцца ад свайго месца жыхарства больш чым на 30 вёрст. Дваранскія сходы былі забаронены, мясц. прадвадзіцеляў дваранства і міравых пасрэднікаў замянялі ўрадавымі чыноўнікамі. За парушэнні законаў ваен. часу ўскладаліся шматлікія і нічым не рэгламентаваныя штрафы. На працягу 1866—70, пачынаючы з усх. губерняў Беларусі, В. с. ў краі было адменена. 18.6.1892 прыняты заканадаўчы акт Расійскай імперыі «Аб мясцовасцях, што аб'яўляюцца на ваенным становішчы». Ён прадугледжваў пры ўвядзенні В. с. значнае пашырэнне паўнамоцтваў ваен. улад, пераход да іх функцый органаў дзярж. улады ў галіне абароны, забеспячэння грамадскага парадку і дзярж. бяспекі. Для гэтых мэт ва ўмовах В. с. галоўнакамандуючы войскамі мог прыняць любыя не прадугледжаныя законам надзвычайныя меры. Генерал-губернатарам і асобам, надзеленым аналагічнай уладай (галоўнаначальнікі), давалася права: выдаваць абавязковыя для насельніцтва пастановы і караць вінаватых у іх парушэнні зняволеннем у турму або крэпасць на тэрмін да 3 мес або штрафам да 3 тыс. руб.; закрываць гандлёвыя і прамысл. прадпрыемствы; забараняць сходы; прыпыняць на ўвесь час дзеяння В. с. перыядычныя выданні; закрываць навуч. установы на тэрмін да 1 мес, а з дазволу камандуючага войскамі — і на ўвесь час дзеяння В. с.; забараняць «нядобранадзейным» асобам знаходжанне ў мясцовасцях, аб'яўленых на В. с., і высылаць іх ва ўнутр. губерні краіны пад публічны нагляд паліцыі; накладваць секвестр і арышт на маёмасць; адхіляць ад пасад на ўвесь час дзеяння В. с. чыноўнікаў (акрамя 1—3-га класаў) усіх ведамстваў, а таксама асоб, выбраных у органы саслоўнага, гар. і земскага самакіравання. Генерал-губернатары і галоўнаначальнікі мелі таксама права здымаць з агульнай падсуднасці і перадаваць на разгляд ваен. суда любую крымінальную справу або справу аб дзярж. злачынстве (бунт супраць вярх. улады, дзярж. здрада, наўмыснае нападзенне на вартавога або ваен. караул, узбр. супраціўленне ваен. караулу або паліцыі і інш.) для пакарання вінаватых па законах ваен. часу, а таксама патрабаваць разгляду гэтых спраў у закрытым судовым пасяджэнні. Начальнікі паліцыі, начальнікі жандарскіх упраўленняў і іх памочнікі ў мясцовасцях, аб'яўленых на В. с., мелі права праводзіць вобыскі ў любы час і ва ўсіх без выключэння памяшканнях і выдаваць распараджэнні аб папярэдняй затрымцы на тэрмін да 2 тыдняў (а са згоды губернатара ці граданачальніка — да 1 мес) усіх асоб, што падазраюцца ў дзярж. злачынствах або ў прыналежнасці да «супрацьзаконных хаўрусаў», а таксама ў парушэнні інтарэсаў войска. Актам ад 18.6.1892 увядзенне В. с. прадугледжвалася толькі ў тых губернях, абласцях, паветах ці асобных населеных пунктах, якія знаходзяцца на тэатры ваен. дзеянняў. Аднак у гады рэвалюцыі 1905—07 і пазней аб'яўленне мясцовасцей на В. с. шырока практыкавалася і ў мірны час (напр., з 12.12. 1905 да 27.1.1907 на В. с. знаходзіліся мяст. і чыг. ст. Баранавічы). 18—20.7. 1914 В. с. аб'яўлена ў бел. губернях у сувязі з пачаткам 1-й сусв. вайны. У СССР аб'яўлялася Прэзідыумам Вярх. Савета СССР у інтарэсах абароны краіны або забеспячэння грамадскага парадку і дзярж. бяспекі. На час дзеяння В. с. прадугледжвалася передача ваен. уладам усіх функцый органаў дзярж. ўлады ў галіне абароны, забеспячэння грамадскага парадку і дзярж. бяспекі. За парушэнне загадаў і распараджэнняў ваен. улад устанаўлівалася адказнасць паводле законаў ваен. часу.

*Кр.:* Полн. собр. законов Российской империи. Собр. 3-е. Т. 12, № 8757; Т. 27, № 28827; Собрание узаконений и распоряжений правительства, издаваемое при Правительствующем Сенате. М., 1914.

*Літ.:* Самбук С. М. Политика царизма в Белоруссии во второй половине XIX века. Мн., 1980.

*А. Я. Сукала.*

**ВАЕ́ННА-ПАВЯТО́ВЫ НАЧА́ЛЬНІК,** ваенны начальнік павета, службовая асоба ваен. і цывільнай адміністрацыі на тэр. аднаго ці некалькіх паветаў у Расійскай імперыі ў 19 ст. Прызначаліся і вызваляліся ад пасады *генерал-губернатарамі* або *ваеннымі губернатарамі* звычайна ў час *ваеннага становішча.* На Беларусі пасада ўпершыню ўведзена пасля задушэння паўстання 1830—31 паводле правіл, зацверджаных 7.11.1833 *Камітэтам па справах Заходніх губерняў.* Скасавана ў 1840-х гадах. Зноў уведзена ў перыяд паўстання 1863—64 на падставе інструкцыі віленскага генерал-губернатара М. М. *Мураўёва* да 24.5.1863. В.-п. н. падпарадкоўваліся цывільная адміністрацыя і войскі на тэр. павета. Адказваў за падтрыманне грамадскага парадку і бяспекі ў павеце, кантраляваў уезд і выезд, меў права выдаляць з мясцовасці ўсіх іншаземцаў, «гулящчых і падазроных людзей», праводзіў дазнанні і некаторыя следчыя дзеянні, прызначаў ваен. начальнікаў у станах, ажыццяўляў кантроль за выкананнем прыгавораў ваен. судоў і інш. Пасада скасавана ў 2-й пал. 1860-х гадоў у сувязі з адменай ваен. становішча. Тэрмін «ваенны начальнік павета» ўжывалі таксама паўстанцы 1863—64 для наймення кіраўнікоў пав. узброеных фарміраванняў.

*А. У. Марыскін.*

**ВАЕ́ННА-ПРАМЫСЛО́ВЫЯ КАМІТЭ́ТЫ**, ВПК, грамадскія арганізацыі ў Расійскай імперыі ў 1-ю сусв. вайну. Створаны паводле рашэння 9-га Усерасійскага з'езда прадстаўнікоў гандлю і прам-сці (май 1915) з мэтай мабілізацыі прам-сці і транспарту на патрэбы вайны, атрымання ад царскага ўрада выгадных ваен. заказаў і паліт. уступак, а таксама расколу рэв. руху і падпарадкавання рабочага класа ўплыву буржуазіі. Да пач. 1916 былі створаны Цэнтр. ВПК і 220 мясцовых, аб'яднаных у 33 абласныя. У сярэдзіне 1915 ВПК дзейнічалі ў Гродне, Вільні, Беластоку, Мінску, Слоніме, Пінску, Бабруйску, Магілёве, Гомелі, Полацку і Віцебску (з аддзелам у Дзвінску). У іх уваходзілі прамыслоўцы, банкаўскія дзеячы, прадстаўнікі тэхн. інтэлігенцыі. 19.7.1915 у Вільні на з'ездзе прадстаўнікоў мясц. камітэтаў (акрамя Віцебскага, які быў звязаны з Петраградскім ВПК) створаны Паўн.-Зах. абласны ВПК. У яго абавязкі ўваходзілі збор і сістэматызацыя звестак пра фабрычна-заводскія, рамесныя, саматужныя прадпрыемствы і абслугоўваючыя іх арг-цыі, якія працавалі на патрэбы Зах. і часткова Паўн.-Зах. франтоў, а таксама размеркаванне паміж мясцовымі ВПК заказаў на дастаўку сыравіны, паліва і рабочай сілы. Усерасійскі з'езд ВПК (25—27.7.1915, Петраград) абмеркаваў пытанні забеспячэння арміі, работы прам-сці і запатрабаваў ад царызму згадзіцца на фарміраванне ўрада, які карыстаўся б даверам Дзярж. думы. З'езд выказаўся за стварэнне пры ВПК прадстаўніцтва ад рабочых, пры дапамозе якога буржуазія спадзявалася дабіцца павышэння прадукцыйнасці працы, паралізаваць стачачны рух і забяспечыць грамадз. мір. Меншавікі, бундаўцы, эсэры падтрымалі стварэнне рабочых груп, якія, на іх думку, маглі абараніць пралетарыят ад жорсткай эксплуатацыі капіталістаў і спрыяць росту яго ўплыву на інш. слаі грамадства. Бальшавікі выступалі супраць удзелу рабочых у ВПК, аднак лічылі магчымым выкарыстаць выбары на першай стадыі ў агітацыйных і арганіз. мэтах. У сувязі з акупацыяй германскімі войскамі зах. часткі Беларусі (восень 1915), эвакуацыяй з Мінскай, Віцебскай і Магілёўскай губ. шэрага прамысл. прадпрыемстваў і няўстойлівым становішчам на фронце ВПК не змаглі разгарнуць у краі прыкметнай дзейнасці. Паўн.-Зах. ВПК пераехаў з Вільні ў Петраград і праіснаваў там да вясны 1916. За гэты час ён садзейнічаў размяшчэнню на новых месцах эвакуіраваных прадпрыемстваў, афармляў заказы на вытв-сць паходных кухняў, хлебапякарняў, выконваў даручэнні Цэнтральнага ВПК. Звесткі пра выбары ў прыфрантавой паласе бел. губерняў рабочых груп не выяўлены. У 1918 ВПК ліквідаваны. *Ц. Е. Саладкоў.*

**ВАЕ́ННА-РЭВАЛЮЦЫ́ЙНАЯ АРГАНІЗА́ЦЫЯ ПРЫ АБЛАСНЫ́М САЮЗЕ РСДРП ЛІТВЫ́ І БЕЛАРУ́СІ.** Існавала ў 1906—07. Узначальвала рэв. работу ў войску; з пач. 1906 дзейнічала пры *Паўночна-Заходнім саюзе РСДРП*, пасля яго рэарганізацыі (май — чэрв. 1906) — пры *Абласным саюзе РСДРП Літвы і Беларусі*. Кіраўнік Э. *Сакалоўскі-Арлоўскі*. Аб'ядноўвала і накіроўвала дзейнасць Бабруйскай, Брэсцкай, Віцебскай, Гродзенскай, Мінскай ваенна-рэв. арг-цый (гл. адпаведныя артыкулы), с.-д. арг-цый салдат у Бярозе-Картузскай, Лідзе, Слоніме. Была звязана з Цэнтр. Варшаўскай ваенна-рэв. арг-цыяй РСДРП. Распаўсюджвала л-ру, газ. «Казарма» — орган Ваеннай арг-цыі РСДРП, «Солдатская жизнь». Выпускала лістоўкі, адозвы, у якіх заклікала да ўзбр. паўстання, сумеснай барацьбы рабочых, салдат і сялян супраць самадзяржаўя. Пад яе кіраўніцтвам на Беларусі адбыліся *Брэсцкія выступленні салдат 1905—07*, выступленні ў крэпасці Асавец Гродзенскага ўмацаванага раёна, Пяцігорскага палка ў мяст. Бяроза-Картузская, запасных салдат Магілёўскай губ. Разгромлена ў гады рэакцыі.

**ВАЕ́ННА-РЭВАЛЮЦЫ́ЙНЫ КАМІТЭ́Т БЕЛАРУ́СКАЙ ССР**, ВРК БССР, надзвычайны вышэйшы орган сав. улады на тэр. Беларусі ў 1920. Утвораны ў Мінску на базе *Мінскага губернскага ваенна-рэвалюцыйнага камітэта* ў адпаведнасці з *Дэкларацыяй аб абвяшчэнні незалежнасці Беларускай ССР* ад 31.7.1920. У склад ВРК БССР увайшлі прадстаўнікі КП(б) Літвы і Беларусі А. Р. *Чарвякоў* (старшыня), В. Г. *Кнорын*, І. Т. Смілга, ад Беларускай камуніст. арг-цыі У. М. *Ігнатоўскі*, ад Бунда А. І. *Вайнштэйн*, ад ЦБ прафсаюзаў Мінска і Мінскай губ. А. М. Крыніцкі. Падпарадкоўваўся Рэв. ваен. савету (РВС) Зах. фронту. Асн. задачы ВРК БССР: арганізацыя сав. улады на месцах, дапамога Чырв. Арміі, падрыхтоўка склікання з'ездаў Саветаў і выбары пастаянных органаў улады. Меў камісарыяты: ваенны, унутр. спраў, земляробства, фінансаў, харчавання, працы, асветы, аховы здароўя, сац. забеспячэння, юстыцыі, сувязі, рабоча-сял. інспекцыі, савет нар. гаспадаркі і інш. Друкаваныя органы: газеты «Савецкая Беларусь», «Известия военно-революционного комитета ССРБ», «Звезда» і пав. газеты. Улада ВРК БССР (на жн. 1920) распаўсюджвалася толькі на 21 павет Мінскай, Віленскай і Гродзенскай губ.: Ашмянскі, Бабруйскі, Баранавіцкі, Барысаўскі, Беластоцкі, Бельскі, Брэст-Літоўскі, Ваўкавыскі, Вілейскі, Гродзенскі, Дзісенскі, Ігуменскі, Кобрынскі, Лідскі, Мазырскі, Мінскі, Навагрудскі, Пінскі, Сакольскі, Слонімскі і Слуцкі. ВРК БССР і яго органы на месцах (павятовыя і валасныя рэўкомы) надзялялі сялян зямлёй, праводзілі нацыяналізацыю прамысл. прадпрыемстваў, увялі харчразвёрстку і хлебную манаполію, устанавілі дзярж. забеспячэнне харчовымі прадуктамі і таварамі першай неабходнасці, дапамагалі Чырв. Арміі папаўняць асабовы склад, забяспечвалі яе харчовымі прадуктамі, абмундзіраваннем, фуражом, гужавым транспартам; праводзілі масавыя суботнікі ў дапамогу Чырв. Арміі, на чыгунках, па нарыхтоўцы паліва для прамысл. прадпрыемстваў і інш., па аднаўленні і рамонце разбураных у час ваен. дзеянняў мастоў і дарог; рамантавалі старыя і адкрывалі новыя школы, б-кі, хаты-чытальні і інш. Паводле мірнага дагавора Сав. Расіі з Літвой 12.7.1920 паўн.-зах. частка БССР (Ашмяны, Браслаў, Гродна, Дзісна, Ліда і інш.) былі вызначаны для перадачы разам з Віленшчынай Літве. Пасля няўдалага наступлення ў час сав.-польскай вайны пад Варшавай войскі Чырв. Арміі пакінулі межы Польшчы і Зах. Беларусі. У час мірных перагавораў войскі польскага ген. Л. Жалігоўскага 9.10.1920 захапілі Вільню і тэр. паўн.-зах. Беларусі, вызначаную для перадачы Літве. Паводле Рыжскага прэлімінарнага дагавора (12.10.1920), які быў пацверджаны *Рыжскім мірным дагаворам 1921*, у складзе БССР засталося толькі 6 паветаў: Бабруйскі, Барысаўскі, Ігуменскі, Мазырскі, Мінскі і Слуцкі. У вер. — снеж. 1920 ва ўсіх валасцях і паветах ВРК БССР і мясц. рэўкомы правялі валасныя і пав. з'езды Саветаў, на якіх былі выбраны пастаянныя органы ўлады. ВРК БССР перадаў свае паўнамоцтвы *Другому Усебеларускаму з'езду Саветаў* (13—17.12.1920), які заслухаў справаздачу ВРК і ўхваліў яго дзейнасць.

*Літ.:* Революционные комитеты БССР и их деятельность по упрочению Советской власти и организации социалистического строительства (июль—декабрь 1920 г.): Сб. документов и материалов. Мн., 1957; Борьба за Советскую власть в Белоруссии, 1918—1920 гг. Т. 2. Февр. 1919—1920 гг. Мн., 1971; Литвинова Г. И. Революционные комитеты в годы гражданской войны. М., 1974; Петриков П. Т. Организация и деятельность революционных комитетов на территории Белоруссии в 1920 году. Мн., 1962; Бугай Н. Ф. Ревкомы: Науч.-попул. очерк. М., 1981. *М. І. Камінскі.*

**ВАЕ́ННА-РЭВАЛЮЦЫ́ЙНЫ КАМІТЭ́Т ЗАХО́ДНЯГА ФРО́НТУ**, ВРК Заходняга фронту, часовы рэвалюцыйны орган па правядзенні ўзбр. паўстання на Беларусі і Зах. фронце ў кастр.—ліст. 1917. У дакументах і л-ры мае таксама назвы Рэвалюцыйны камітэт, Часовы ваенна-рэвалюцыйны камітэт, ВРК Заходняй вобласці, Ваенна-рэвалюцыйны камітэт Мінска і Заходняга фронту, Мінскі ВРК, Ваенрэўком Мінскага Савета, Ваенна-рэвалюцыйны камітэт Паўночна-Заходняй вобласці і Заходняга фронту. Прыкладам для яго арганізацыі паслужыў Пётраградскі ВРК. Рашэнне аб утварэнні ВРК Зах. фронту бальшавікі Мінска прынялі 26.10(8.11).1917. Ядро к-та склалі прэзідыум Мінскага Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў, бюро Абласнога выканаўчага к-та Саветаў Зах. вобласці, бальшавіцкая фракцыя к-та Саветаў рабочых, салдацкіх і сял. дэпутатаў Зах. фронту, прадстаўнікі Мінскага раённага чыгуначнага к-та і ўсіх вайск. часцей Мінска. У загадзе № 2 ВРК Зах. фронту ад 3(16).11.1917 гаварыла-

ся, што к-т «пашырае свой склад: у яго запрашаюцца па адным прадстаўніку ад кожнага Савета рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў Паўночна-Заходняй вобласці...» і па адным ад ваенна-рэв. к-таў Зах. фронту. 5(18).11.1917 газ. «Звезда» паведамляла, што «Ваенна-рэвалюцыйны камітэт Заходняга фронту ўжо аформіўся і прыступіў да работы». У склад к-та ўваходзілі лідэры бальшавікоў Беларусі І. Я. Алібегаў, С. І. Берсан, В. В. Вашкевіч, М. І. Калмановіч, В. В. Каменшчыкаў, В. Г. Кнорын, М. І. Крывашэін, К. І. Ландар (старшыня бюро ВРК), А. Ф. Мяснікоў, П. М. Палукараў, М. У. Рагазінскі, У. С. Селязнёў, У. М. Фрэйман, А. М. Цярэнцьева, С. Я. Шчукін і інш. (усяго больш за 25 чал.). Выдаваў *«Бюллетень Военно-революционного комитета Западного фронта»*. Адначасова з выкананнем функцый задушэння супраціўлення праціўнікаў Кастр. перавароту ВРК займаўся адм.-гасп. дзейнасцю. З мэтай стварэння пастаянных і адзіных краявых і франтавых органаў сав. улады, ажыццяўлення мерапрыемстваў па нармалізацыі гасп. жыцця ў складзе к-та былі арганізаваны аддзелы: грамадзянскі, ваенны, гаспадарчы, забеспячэння, арганізацыйны і сувязі, мандатны, інфармацыйны. Агульнае кіраўніцтва работай аддзелаў ажыццяўляла бюро ВРК, у якое ўваходзілі прадстаўнікі ад кожнага аддзела. ВРК расшырыў свае паўнамоцтвы на ўсе адм. установы, суд, пошту, тэлеграф, вырашаў розныя канфлікты, пасылаў сваіх прадстаўнікоў для арганізацыі рэўкомаў на месцах. Накіраваў на дапамогу Мінскаму Савету браняпоезд, браневікі, рэв. 60-ы Сібірскі полк, 4(17).11.1917 распусціў эсэра-меншавіцкі *Камітэт выратавання Радзімы і рэвалюцыі*, удзельнічаў у ліквідацыі Стаўкі Вярх. галоўнакамандуючага ў Магілёве, блакіраваў яе сваімі войскамі з Пд у раёне Жлобіна, паставіў пад кантроль сваіх камісараў работу чыгуначных станцый. Ажыццяўляў кантроль над штабам Зах. фронту, арыштаваў ваен. камісара Часовага ўрада на Зах. фронце, змясціў галоўнакамандуючага Зах. фронту ген. П. С. Балуева, які адмовіўся падпарадкавацца сав. уладзе, і назначыў на яго месца чл. ВРК Каменшчыкава. Неаднаразова звяртаўся да салдат з заклікам накіраваць свае намаганні на барацьбу за хутчэйшае падпісанне міру, накіраваў у штаб ням. Усх. фронту дэлегацыю, якая 21.11(4.12).1917 падпісала ў мяст. Солы дагавор пра перамір'е на Зах. фронце. Самыя крутыя меры прымаліся для спынення сабатажу на прадпрыемствах і ва ўстановах Мінска. Паводле загада № 14 ВРК Зах. фронту распушчаны к-т Усерас. земскага саюза. Ва ўправу Мінскага губ. прадуктовага к-та «для кантролю і ажыццяўлення ўсіх распараджэнняў ВРК і Савета Народных Камісараў» быў назначаны прадстаўнік ВРК салдат Т. Швалёў. На прадметы першай неабходнасці і прадукты былі ўстаноўлены цвёрдыя цэны. Загады ВРК паведамляюць пра суровыя меры пакарання, што прымаліся ў дачыненні да грабежнікаў, хуліганаў і п'яніц, забарону продажу і вырабу спіртнога і інш. Каравульная служба была арганізавана «па ўсёй строгасці гарнізоннага статута». У адпаведнасці з законам аб друку ВРК Зах. фронту закрыў некалькі антыбальшавіцкіх газет, што выходзілі на тэр. Беларусі, у т. л. «Гомельскую жизнь», «Новое Варшавское утро», «Минскую жизнь», «Минскую искру» і інш. Праводзіў работу па падрыхтоўцы і скліканні *з'езда Саветаў рабочых і салдацкіх дэпутатаў Заходняй вобласці, Трэцяга з'езда Саветаў сялянскіх дэпутатаў Мінскай і Віленскай губерняў, Другога з'езда армій Заходняга фронту*, якія выбралі органы сав. улады. Спыніў дзейнасць 26.11(9.12).1917 пасля стварэння *Абласнога выканаўчага камітэта Саветаў рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў Заходняй вобласці і фронту* (Аблвыкамзаха) і *Савета Народных Камісараў Заходняй вобласці і фронту*.

*Літ.:* Великая Октябрьская социалистическая революция в Белоруссии: Документы и материалы. Т. 2. Мн., 1957; Победа Советской власти в Белоруссии. Мн., 1967; Стужынская Н. І. Ваенна-рэвалюцыйны камітэт Заходняга фронта ў Кастрычніцкай рэвалюцыі // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1985. № 1. *Н. І. Стужынская.*

**ВАЕ́ННА-РЭВАЛЮЦЫ́ЙНЫ САВЕ́Т ГЕРМА́НСКІХ ВОЙСК УСХО́ДНЯГА ФРО́НТУ**, орган паліт. кіраўніцтва к-тамі салдацкіх дэпутатаў германскіх войск у ліст. 1918 — пач. 1919. Створаны ў Мінску. Дзейнічаў пад кіраўніцтвам Федэрацыі замежных груп РКП(б), у кантакце з ням. секцыяй *Паўночна-Заходняга абласнога камітэта РКП(б)*, бюро ваен. федэрацый Віцебскай, Мінскай і Магілёўскай губ. арг-цый РКП(б). У савет уваходзілі прадстаўнікі «Саюза Спартака», чл. Федэрацыі замежных груп РКП(б), рэв. настроеныя салдаты германскіх войск. Кіраваў ротнымі, палкавымі і раённымі к-тамі салдацкіх дэпутатаў, вёў агітацыю за мір, выпускаў газету, лістоўкі, адозвы на ням. мове. Пры савеце дзейнічалі агітацыйна-прапагандысцкі аддзел (30 чал.), школа прапагандыстаў. *М.С. Сташкевіч.*

**ВАЕ́ННА-РЭВАЛЮЦЫ́ЙНЫЯ КАМІТЭ́ТЫ**, ВРК, часовыя надзвычайныя органы ўлады, якія стваралі бальшавікі пры Саветах і ў арміі пры вайсковых к-тах у перыяд барацьбы за ўстанаўленне бальшавіцкай дыктатуры. Дзейнічалі ў кастр. 1917 — сак. 1918. Ідэя арганізацыі «штаба паўстанцкіх атрадаў» была выказана У. І. Леніным 13—14 (26—27).9.1917 у лісце да бальшавіцкага ЦК «Марксізм і паўстанне». Па яго ініцыятыве быў створаны «штаб паўстання» — Петраградскі ВРК [дзейнічаў 12(25).10 — 25.10(7.11).1917 як легальны штаб па падрыхтоўцы і правядзенні Кастр. ўзброенага паўстання ў Петраградзе, 12(25).10—5(18).12.1917 цэнтр. орган дзярж. улады ў Расіі]. Потым ВРК сталі стварацца па ўсёй краіне і ў арміі. На Беларусі ВРК створаны ў 1917: у Мінску (гл. *Ваенна-рэвалюцыйны камітэт Заходняга фронту*) і Віцебску 27 кастр. (9 ліст.), у Нясвіжы 29 кастр. (11 ліст.), Барысаве 5(18) ліст., Вілейцы і Гарадку 8(21) ліст., Магілёве 18 ліст. (1 снеж.) і г. д., а таксама ў злучэннях і часцях Зах. фронту. Сац. склад ВРК быў неаднародным. У іх уваходзілі прадстаўнікі ад рабочых, салдат, сялян, рэв. афіцэры, якія ў большасці былі бальшавікамі. Гал. задачамі ВРК былі: захоп улады бальшавікамі, звяржэнне Часовага ўрада і яго органаў на месцах, задушэнне апазіцыйных сіл, якія выступалі супраць бальшавікоў. З гэтай мэтай арганізаваны захоп найбольш стратэгічна важных аб'ектаў — арсеналаў, тэлеграфа, тэлефона, чыг. станцый, штабоў войск і ўстаноўлены кантроль над іх дзейнасцю. ВРК таксама займаліся арганізацыяй эканам. і гасп. жыцця, устанаўлівалі кантроль над вытворчасцю і размеркаваннем, праводзілі рэквізіцыі збожжавых і маёмасных запасаў у насельніцтва для забеспячэння арміі і бяднейшых слаёў насельніцтва. ВРК буйных рэв. цэнтраў (Петраград, Масква) дапамагалі ў стварэнні і каардынацыі дзейнасці губернскіх, павятовых і вайсковых ВРК, дасылаючы дырэктывы, эмісараў і агітатараў у розныя рэгіёны краіны. ВРК вайсковых часцей і злучэнняў праводзілі дэмакратызацыю арміі, арганізоўвалі перагаворы з праціўнікам аб заключэнні перамір'я на фронце, займаліся дэмабілізацыяй старой арміі і фарміраваннем часцей новай арміі. Па меры бальшавізацыі Саветаў і вайсковых камітэтаў, заваёвы бальшавікамі даверу шырокіх мас рабочых, сялян і асабліва салдат на фронце шляхам маніпуляцыі ў вырашэнні паліт. і сац. пытанняў (абвяшчэнне дэкрэтаў аб міры і зямлі, шырокая іх прапаганда), па меры арганізацыі сав. дзярж. апарату, умацавання сав. улады ў цэнтры і на месцах неабходнасць у ВРК адпадала. Уся ўлада была сканцэнтравана ў руках Саветаў. Ліквідацыя ВРК праходзіла ў залежнасці ад канкрэтных мясц. умоў. У 1918—20 ствараліся часовыя надзвычайныя органы сав. улады — *рэвалюцыйныя камітэты* (рэўкомы). *М. М. Смальянінаў.*

**ВАЕ́ННЫ ГУБЕРНА́ТАР**, вышэйшая службовая асоба ў губернях Расійскай імперыі ў канцы 18 — пач. 20 ст. ў час *ваеннага становішча*. Пасада ўпершыню ўведзена ў Маскве і Санкт-Пецярбургу, на Беларусі і ў Літве — у 1803. Прызначаліся імператарам, з 1846 маглі прызначацца галоўнакамандуючым арміяй з наступным зацвярджэннем імператарам. Падпарадкоўваліся *генерал-губернатарам* і галоўнакамандуючым дзеючай арміяй. Нярэдка пасада В. г. спалучалася ў адной асобе з пасадай генерал-губернатара. В. г. быў абавязаны: ажыццяўляць агульны нагляд за мясц. адміністрацыяй; падтрымліваць грамадскі парадак і бяспеку на тэр. губерні; душыць антыўрадавыя выступленні і сялянскія хваляванні; каардынаваць дзейнасць ваен. і грамадз. адміністрацыі. Меў права: прызначаць і вызваляць ад пасады *ваенна-павятовых начальнікаў*

і інш. чыноўнікаў; аддаваць пад суд удзельнікаў антыўрадавых выступленняў; зацвярджаць прыгаворы ваен. судоў і ажыццяўляць кантроль за іх выкананнем; высылаць у адм. парадку з мясцовасцей, аб'яўленых на ваен. становішчы, і інш. *А. У. Марыскін.*

**«ВАЕ́ННЫ КАМУНІ́ЗМ»,** назва эканамічнай палітыкі Сав. дзяржавы ў 1918—20; сістэма надзвычайных, выкліканых грамадз. вайной і ваеннай інтэрвенцыяй мер, якія павінны былі ўсталяваць дыктатуру пралетарыяту ў краіне з велізарнай перавагай дробна-буржуазнага насельніцтва. Склаўся на грунце папярэдняга развіцця Расійскай імперыі — выключная роля дзяржавы, цяжкае эканам. становішча ў сувязі з працяглай вайной. Разуменне сацыялізму як поўнай процілегласці капіталізму садзейнічала ўзнікненню ў бальшавіцкіх тэарэтыкаў меркавання пра магчымасць адмены таварна-грашовых адносін. Тэрмін «В. к.» у дачыненні да палітыкі Сав. дзяржавы 1918—20 упершыню ўжыты У. І. Леніным у рабоце «Аб харчовым падатку» (сак. 1921). Фарміраванне палітыкі «В. к.», што адбывалася ў большай ступені стыхійна, можна аднесці да пач. 1918. Але як сістэма сацыяльна-эканам. захадаў «В. к.» склаўся ў 2-й пал. 1918 — пач. 1919 і выяўляўся ў наступным: у галіне сельскай гаспадаркі — забарона прыватнага гандлю збожжам і распаўсюджанне яе на ўсе харч. тавары, *харчразверстка,* арганізацыя *камітэтаў беднаты,* фарсіраваны пераход да сацыяліст. форм гаспадарання (гл. *Камуна сельскагаспадарчая*); у галіне прамысловасці — *нацыяналізацыя* не толькі буйных, але і сярэдніх і дробных прадпрыемстваў, крайняя цэнтралізацыя кіравання прамысловасцю (стварэнне главкаў — гаспадарча ізаляваных адзін ад аднаго аб'яднанняў, работа якіх каардынавалася ВСНГ), выключна загадны стыль кіраўніцтва; у галіне гандлю і размеркавання — забарона свабоднага гандлю і натуралізацыя гаспадарчых адносін (гл. *Камуна спажывецкая*), спробы арганізацыі прадуктаабмену паміж горадам і вёскай, размеркаванне прадметаў масавага спажывання сярод насельніцтва па картачнай сістэме і класавай прыкмеце, адмена платы за жылле і камунальныя паслугі; у галіне арганізацыі працы — увядзенне ўсеаг. працоўнай павіннасці, ажыццяўленне прынцыпу «хто не працуе, той не есць», натуралізацыя аплаты працы (харчовы паёк) пры адсутнасці ўліку яе якасці і колькасці (ураўняльнасць), стварэнне працоўных армій (мілітарызацыя працы), дзяржаўна-ідэалаг. падтрымка камуніст. суботнікаў як новай формы дысцыпліны і арганізацыі працы. «Ваенна-камуністычныя» тэндэнцыі праяўляліся ў розных галінах дзярж. і культ. жыцця.

На Беларусі палітыка «В. к.» ажыццяўлялася дзярж. і парт. органамі *Заходняй вобласці,* Бел. ССР, ЛітБел, *рэвалюцыйнымі камітэтамі.* Асаблівасці палітыкі «В. к.» на Беларусі вызначаліся тым, што яна з'яўлялася тэатрам ваен. дзеянняў і прыфрантавой тэрыторыяй. На неакупіраванай тэр. Беларусі па розных прычынах на пач. 1918 дзейнічалі толькі 23% прамысл. прадпрыемстваў у параўнанні з 1913. Многія з іх да жн. 1919 яшчэ не былі пад кантролем дзяржавы. На вызваленай тэр. Беларусі нацыяналізацыя пачалася восенню 1920 у адпаведнасці з пастановай ВСНГ ад 29.11.1920, якая абвяшчала нацыяналізаванымі ўсе прадпрыемствы, што знаходзіліся ва ўладанні прыватных асоб ці грамадскіх аб'яднанняў і мелі больш за 5 рабочых пры механічным рухавіку, або больш за 10 без яго. У сваіх крайніх формах ажыццяўлялася палітыка «В. к.» ў галіне сельскай гаспадаркі ў Магілёўскай і Віцебскай губ., дзе ў адказ на гэта адбыўся шэраг сялянскіх выступленняў. Імкненне пераадолець несумяшчальнае антыбуржуазную, антыкапіталіст. рэвалюцыю фабрычнага пралетарыяту і антыфеад., буржуазную па сваёй сутнасці рэвалюцыю сялянства побач з ваен. інтэрвенцыяй і спадзяваннямі на сусветную рэвалюцыю паскорыла працэс сацыяліст. пераўтварэнняў у фарсіраваных формах і склала асн. супярэчнасць «В. к.» — паміж горадам і вёскай. Яскравай праявай крызісу палітыкі «В. к.» было Кранштацкае паўстанне ў сак. 1921. Праціўдзеянне сялянства стала асн. прычынай хуткага пераходу ад палітыкі «В. к.» да *новай эканамічнай палітыкі.* Аднак меркаванне парт. кіраўніцтва аб нэпе як буржуазнай палітыцы абумовіла адыход ад яе ў канцы 1920-х гадоў і фактычнае вяртанне да асн. кіруючых палітыкі «В. к.» ў форме адміністрацыйна-каманднай сістэмы і дыктатарскага сталінскага рэжыму. *С. М. Ходзін.*

**ВАЕ́ННЫ САЮ́З ГРО́ДЗЕНСКАЙ ГУБЕ́РНІ,** грамадска-палітычная арганізацыя. Існаваў з восені 1917 да 1918 у Петраградзе на прынцыпах пазапартыйнасці, пазасаслоўнасці, пазанацыянальнасці. Аб'ядноўваў салдат, чыноўнікаў і афіцэраў — ураджэнцаў Гродзенскай губ. Задачы: усебаковая дапамога членам саюза і іх сем'ям, падрыхтоўка да вяртання на радзіму, уладкаванне там і інш. Кіруючы орган — Цэнтр. к-т. Меў пададдзелы і групы ў дзеючай арміі, але быў нешматлікі. Выдаваў лістоўкі і адозвы з выкладаннем сваіх задач і мэт, члены саюза прымалі ўдзел у рабоце з'ездаў воінаў-беларусаў розных франтоў. Падтрымліваў цесныя сувязі з «Саюзам грамадзян Гродзенскай губерні».

**ВАЕ́ННЫЯ ЗЛАЧЫ́НЦЫ,** у міжнародным праве арганізатары, кіраўнікі і выканаўцы злачынстваў супраць міру (планаванне, падрыхтоўка, развязванне і вядзенне захопніцкай вайны), ваен. злачынстваў (парушэнне законаў і звычаяў вайны), злачынстваў супраць чалавецтва (забойствы, вынішчэнні, зняволенні і інш. жорсткасці ў адносінах да цывільнага насельніцтва). Нормы пра адказнасць В. з. замацаваны ў шэрагу міжнар. дагавораў і пагадненняў (Гаагская 1907, Жэнеўская 1929 канвенцыі), а таксама ў нац. заканадаўстве розных краін (у СССР — Указ Прэзідыума ВС СССР ад 19.4.1943). Па ініцыятыве СССР 30.10.1943 прынята Маскоўская дэкларацыя аб адказнасці гітлераўцаў за ўчыненыя зверствы, падпісаная СССР, ЗША і Вялікабрытаніяй. Дэкларацыя замацавала палажэнне пра тое, што германскія салдаты, афіцэры і чл. нацысцкай партыі, адказныя за зверствы, забойствы і інш. злачынствы, учыненыя на тэр. часова акупіраваных імі краін, будуць адасланы ў гэтыя краіны для суда і пакарання. Гэтымі дакументамі была створана юрыд. база пакарання В. з. У СССР для выяўлення і расследавання злачынстваў ням.-фаш. захопнікаў і іх памагатых, вызначэння нанесеных імі страт, устанаўлення асоб В. з. з мэтай аддачы іх пад суд 2.11.1942 створана *Надзвычайная дзяржаўная камісія.* Пытанне аб адказнасці галоўных В. з., злачынствы якіх не звязаны з пэўным геагр. месцам, было канчаткова вырашана Лонданскім пагадненнем СССР, ЗША, Вялікабрытаніі і часовага ўрада Францыі ад 8.8.1945 (да яго далучыліся яшчэ 19 дзяржаў). Пагадненне прадугледжвала, што галоўныя В. з. будуць пакараны сумесным рашэннем урада саюзнікаў, для чаго было вырашана заснаваць Міжнар. ваен. трыбунал (статут яго зацверджаны 20.12. 1945). На падставе гэтых дакументаў праведзены *Нюрнбергскі працэс* над галоўнымі В. з. фаш. Германіі і Такійскі працэс над гал. японскімі В. з. У выяўленні і справядлівым пакаранні В. з. зацікаўлена і Беларусь, якой у гады вайны былі прынесены незлічоныя бедствы і страты. Фашысты спалілі і разбурылі на Беларусі 209 гарадоў і раённых цэнтраў, 9200 вёсак (з іх 628 спалена разам з жыхарамі), знішчылі больш за 2 млн. 200 тыс. сав. грамадзян, вывезлі ў Германію на катаржныя работы каля 380 тыс. чал. У гады вайны загінуў кожны чацверты жыхар Беларусі. Матэрыяльны ўрон, прычынены рэспубліцы, склаў 75 млрд. руб. (у дзярж. цэнах 1941; гл. таксама *Акупацыйны рэжым, Генацыд, Карныя аперацыі, Лагеры смерці, Населеныя пункты Беларусі, знішчаныя разам з жыхарамі ў 1941—44 гадах* нямецка-фашысцкімі захопнікамі). Адказнасць за ўчыненыя на Беларусі злачынствы ляжыць на ген. камісары Беларусі В. Кубэ (22.9.1943 знішчаны мінскімі падпольшчыкамі), нач. СС і паліцыі на Беларусі групенфюрэры войск СС фон Готбергу, упаўнаважаным рэйхсфюрэра СС Гімлера па барацьбе з партызанамі на Беларусі обергрупенфюрэры СС Бах-Зелеўскі, камандуючым ахоўнымі войскамі і нач. тылавога раёна групы армій «Цэнтр» Шэнкендорфу і інш. На 1-й сесіі Ген. Асамблеі ААН дэлегацыя БССР прапанавала праект рэзалюцыі (прыняты 13.2.1946) аб выдачы і пакаранні В. з., перадала спіс болей як на 1200 В. з., вінаватых у злачынствах

на акупіраванай тэр. Беларусі. Аднак ні адзін з названых у спісе В. з. не быў выдадзены зах. дзяржавамі для прыцягнення да адказнасці там, дзе ён учыніў злачынствы. Беларусь адна з першых падпісала 27.1.1969 Канвенцыю аб непрымяненні тэрміну даўнасці да ваен. злачынстваў і злачынстваў супраць чалавецтва (прынята 23-й сесіяй Ген. Асамблеі ААН 26.11.1968). У Канвенцыі адзначаецца, што пакаранне В. з.— важны фактар папярэджання ваен. злачынстваў, умацавання даверу і супрацоўніцтва паміж народамі і забеспячэння міжнар. міру. У СССР, Бельгіі, Францыі, Германіі, Польшчы і інш. краінах прыняты спец. законы аб непрымяненні тэрміну даўнасці да нацысцкіх В. з. Не можа быць дадзена В. з. і права прыстанішча (Дэкларацыя ААН аб праве прыстанішча 1967). Згодна з рэзалюцыяй Ген. Асамблеі ААН ад 3.12.1973 усе В. з. падлягаюць вышуку, арышту, судовай адказнасці і пакаранню ў выпадку прызнання іх віны.

*Літ.:* Нюрнбергский процесс над главными военными преступниками: Сб. материалов. Т. 1—3. М., 1965—66; Немецко-фашистский оккупационный режим (1941—1944 гг.): [Сб. ст.]. М., 1965; Нацистская политика геноцида и «выжженной земли» в Белоруссии, 1941—1944. Мн., 1984; Преступные цели — преступные средства: Документы об оккупационной политике фашистской Германии на тер. СССР (1941—1944 гг.). 3 изд. М., 1985. *І. І. Пацяружа.*

**ВАЕ́ННЫЯ ПАСЯЛЕ́ННІ,** асобая арганізацыя войск у Расійскай імперыі ў 1810—57, якія спалучалі ваен. службу з с.-г. працай. Уведзены па ініцыятыве імператара *Аляксандра I* з мэтай самазабеспячэння арміі харчаваннем і фуражом, адмаўлення ў мірны час ад рэкруцкіх набораў і стварэння ізаляванай ад цывільнага насельніцтва ваеннай касты, якая служыла б апорай самадзяржаўна-прыгонніцкага ладу. Непасрэдная арганізацыя В. п. ускладалася на графа А. А. Аракчэева (з 1817 — афіц. начальнік В. п.). З'яўляліся адной з праяў *аракчэеўшчыны.* Наладжваліся В. п. на казённых землях. Першае доследнае В. п. ўтворана ў 1810 на тэр. б. Бабылецкага старосства Клімавіцкага пав. Магілёўскай губ. Пасля высялення на Украіну 667 сямей мясцовых дзярж. сялян тут быў размешчаны асабовы склад Ялецкага пях. палка. Пры пераводзе часці ў катэгорыю паселеных войск жанатыя салдаты і унтэр-афіцэры аднаго з батальёнаў, якія праслужылі ў войску не менш за 6 гадоў, надзяляліся ўласнымі гаспадаркамі і атрымлівалі найменне «гаспадары». Пры дасягненні імі пэўнай ступені заможнасці да іх падсяляліся «пастаяльцы» (па 2 «ніжнія чыны» на гаспадарку з ліку непаселеных батальёнаў палка). «Пастаяльцы» абавязваліся ва ўсім дапамагаць «гаспадарам». Дзеці ваен. пасялян з 7-гадовага ўзросту залічваліся ў «ваенныя кантаністы», а з 18 гадоў пераводзіліся ў вайск. часці. Стварэнне В. п. было перапынена Айч. вайной 1812. З 1816 працягвалася ў шырокіх маштабах. Пры гэтым урад адмовіўся ад перасялення мясц. жыхароў і ўключаў іх у склад В. п. у якасці «гаспадароў» ці «пастаяльцаў». Да 1825 ваен. пасяляне, размешчаныя ў Наўгародскай, Пецярбургскай, Магілёўскай, Херсонскай, Слабодска-Украінскай і Екацярынаслаўскай губ., склалі больш за 11 % пяхоты і каля 26 % кавалерыі, што сведчыла пра няўдачу задумы В. п., бо яны мелі сэнс толькі ў маштабах усёй рэгулярнай арміі. Паводле «Палажэння аб поўным складзе паселенага пешага палка і яго абавязках» ад 19.11. 1826, пасяляне-«гаспадары» вызваляліся ад службовых заняткаў і абавязваліся сканцэнтраваць сілы на гасп. працы. На 1 гаспадарку цяпер прызначаўся 1 пастаялец. На Беларусі ў 1817 па суседству з Ялецкім пях. палком быў размешчаны Полацкі пях. полк. У 1827 абодва пасяленні аб'яднаны ў 1 акругу пасялення 2-й сапёрнай брыгады. Неўзабаве на тэр. Дынабургскага пав. Віцебскай губ. (цяпер тэр. Латвіі) было ўтворана пасяленне 1-й сапёрнай брыгады, цесна звязана з папярэднімі. Стварэнне В. п. на тэр. Беларусі было ва ўсіх адносінах няўдалым. Толькі каля 20 % сямей пасялян-«гаспадароў» нават ва ўраджайныя гады маглі забяспечыць сябе харчаваннем. «Пастаяльцы» ўвесь час знаходзіліся на дзярж. забеспячэнні. «Ваенныя кантаністы» ўзнаўлялі зусім нязначную частку натуральнага змяншэння асабовага складу. В. п. сталі ачагом масавага антыпрыгонніцкага руху. Паўстанні Чугуеўскага і Таганрогскага уланскіх палкоў (1819), ваен. пасялян у Старой Русе Наўгародскай губ. (1831) прымусілі ўрад правесці рэформу В. п. Пяхотныя ваен. пасяляне пераводзіліся на становішча *ворных салдат* (на Беларусі ў 1836). Кавалерыйскія В. п. праіснавалі без істотных змен да 1857, калі былі ліквідаваны разам з акругамі ворных салдат.

*Літ.:* Граф Аракчеев и военные поселения, 1809—1831. Спб., 1871; Кандаурова Т. Н. Военные поселения в России 1810—1857 гг. (проекты и их реализация) // Вестн. Моск. ун-та. Сер. 8. История. 1990. № 1; Ячменихин К. М. Военные поселения в русской дореволюционной и советской историографии // Тамсама. 1985. № 3; Петрович Н. Принудительное переселение бобылецких крестьян (в 1810—1812 гг. из Мог. губ. в Новороссию) // Архив истории труда в России. Пг., 1924. Кн. 11/12; Блашков Ю. А. К истории возникновения военных поселений // Актуальные проблемы общественных и естественных наук: Науч. конф. молодых учёных, посвящ. 60-летию ун-та: Тез. докл. Мн., 1981. *Ю. А. Блашкоў.*

**ВАЕ́ННЫЯ РЭФО́РМЫ 1860—70-х ГАДО́Ў,** пераўтварэнні ва ўзброеных сілах Расійскай імперыі ў ходзе бурж. рэформ 1860—70-х гадоў. Былі выкліканы адменай прыгоннага права ў 1861 і неабходнасцю рэарганізацыі ваеннай справы Расіі, што выявілася ў Крымскай вайне 1853—56. Ажыццяўляліся пад кіраўніцтвам ваен. міністра Дз. А. Мілюціна. У 1862—64 праведзена рэформа мясц. ваеннага кіравання: створана 15 ваен. акруг, у т. л. *Віленская ваенная акруга,* у якую ўвайшлі і бел. губерні. У ходзе рэформы ваен. адукацыі кадэцкія карпусы пераўтвараліся ў ваен. гімназіі, пашыралася сетка ваен. вучылішчаў (1863—64), стварaліся юнкерскія вучылішчы (1864), адкрыты новыя вышэйшыя ваен. навуч. ўстановы: Ваенна-юрыдычная (1867) і Марская (1877) акадэміі. Пачалося пераўзбраенне арміі наразной стралковай зброяй і артылерыяй. У 1874 замест рэкруцкіх набораў уведзена ўсесаслоўная воінская павіннасць, паводле якой да службы ў арміі прыцягвалася ўсё мужчынскае насельніцтва, што дасягнула 21-гадовага ўзросту. Тэрмін абавязковай вайск. службы скарачаўся з 20—25 гадоў да 6 у сухапутных войсках і да 7 на флоце. Гэта дазваляла звесці да мінімума лік кадравага корпуса і забяспечвала стварэнне вял. колькасці абучаных рэзерваў. Праведзена рэарганізацыя баявой падрыхтоўкі войск, уведзены новыя вайск. статуты. Ваенна-судовымі рэформамі ў арміі ўводзіліся бурж. прынцыпы судаводства. У выніку В. р. 1860—70-х гадоў рус. армія стала ў большай меры адпавядаць патрабаванням часу, павысілася яе баяздольнасць. Аднак і пасля рэформ у войсках заставаліся шматлікія прыгонніцкія перажыткі, бяспраўе салдат і каставасць афіцэрскага корпуса.

*Літ.:* Зайончковский П. А. Военные реформы 1860—1870 годов в России. М., 1952.

**ВАЕ́ННЫЯ САВЕ́ТЫ 1918—19,** часовыя надзвычайныя органы цывільнай і ваен. улады, якія ствараліся РВС *Заходняга раёна абароны 1918* і дзейнічалі да ўтварэння органаў сав. улады на вызваленай ад германскіх войск тэр. Беларусі. У ліст. 1918 утвораны Магілёўскі, Мінскі, Бабруйскі, Маладзечанскі, Свянцянскі, Дзвінскі і Рэжыцкі В. с. У іх склад уваходзілі ваенна-паліт. камісар (кіраўнік) і 2 члены, прызначаныя вышэйшым камандаваннем. Падпарадкоўваліся непасрэдна РВС Зах. раёна абароны (з 15.11.1918 — *Заходняй арміі*). Кожны В. с. дзейнічаў у межах пэўнай тэрыторыі: Бабруйскі — у межах Бабруйскага, Мазырскага, Быхаўскага, Рагачоўскага і Гомельскага пав.; Маладзечанскі — у межах Ашмянскага і Вілейскага пав.; Свянцянскі, Рэжыцкі і Дзвінскі — у Віцебскай губ. В. с. валодалі ўсёй паўнатой улады. У іх задачу ўваходзіла ўстанаўленне ў вызваленых раёнах парадку, задушэнне антысав. выступленняў, барацьба са спробамі знішчэння і раскрадання маёмасці, якую пакідалі германскія войскі. Важнай задачай В. с. было садзейнічанне апаратыўным дзеянням па вызваленні тэр. Беларусі ад германскіх акупантаў — аднаўленне шляхоў зносін, сродкаў сувязі, збіранне прыдатнага на ваен. патрэбы рыштунку і маёмасці, прыцягненне грамадзян да ваен. службы. В. с. дапамагалі ствараць Саветы рабочых і сял. дэпутатаў, рэўкомы, камбеды, батрацкія к-ты і інш. органы мясц. кіравання. Вялі перамовы пра час і ўмовы эвакуацыі германскіх войск. Са стварэннем і ўмаца-

ваеннем Саветаў і рэўкомаў у паветах і валасных цэнтрах неабходнасць у В. с. знікла і 21.12.1918 загадам камандавання Зах. арміі былі скасаваны Рэжыцкі, Дзвінскі, Свянцянскі, Бабруйскі В. с., астатнія — у студз. 1919.

*П. А. Селіванаў.*

**«ВАЕ́ННЫЯ СПРА́ВЫ КАРАЛЯ́ СТЭ́ФАНА БАТО́РЫЯ»** («Sprawy wojenne króla Stefana Batorego»), збор гіст. дакументаў пра ўладаранне С. *Баторыя.* Выдадзены ў 1887 у друкарні Ягелонскага ун-та ў серыі Acta Historica (т. 11). Складальнік І. Палькоўскі ўключыў у выданне 164 дакументы, якія ахоплівалі час з 18.1.1576 да вер. 1585. Частка дакументаў была перадрукавана з выданняў 16 ст., якія выходзілі ў Аўсбургу, Гданьску, Каралеўцы, Кракаве, Празе, а таксама ў паходных друкарнях на ням., лац., чэшскай, польскай мовах, з польскіх і рас. археаграфічных выданняў 19 ст. (напр., перапіска Баторыя з царом Іванам IV, дыярыуш аблогі Пскова, дыпламатычная перапіска, якая папярэднічала падпісанню Ям-Запольскага міру, шэраг лістоў, універсалаў, інструкцый), аднак большасць крыніц надрукавана ўпершыню. Гэта рукапісныя матэрыялы з фондаў Ягелонскай б-кі, архіва князёў Чартарыйскіх, Дзікоўскай б-кі Я. Тарноўскага, б-кі Рачынскіх у Познані і інш. архіўных збораў. Сярод крыніц, якія раней не друкаваліся,— лісты Баторыя да князёў Радзівілаў, Хадкевічаў, вітанне караля пры яго вяртанні з *Лівонскай вайны 1558—83,* дыярыуш узяцця замкаў Веліж, Усвяты і Вял. Лукі, напісаны Я. Збароўскім, дыярыуш аблогі і ўзяцця Веліжа, Вял. Лук і Завалочча, напісаны Л. Дзялынскім, дыярыуш вальнага сейма ў Варшаве 1581, матэрыялы па дыпламатычных перагаворах Баторыя са шведамі ў 1582 і інш. У кнізе змешчаны паказальнік геагр. назваў і ўласных імён. Матэрыялы пададзены на польскай мове, сярод польскамоўных дакументаў больш дзесяці актаў, напісаных на старабел. канцылярскай мове ВКЛ.

*Г. М. Сагановіч.*

**«ВАЕ́ННЫЯ СЯБРЫ́»,** Т а в а р ы с т в а  в а е н н ы х  с я б р о ў, тайная арганізацыя ў Літоўскім асобным корпусе (Беластоцкая вобл.) у 1825. Утворана па ініцыятыве тутэйшага шляхціца, б. філамата М. І. *Рукевіча* сумесна з афіцэрамі Літоўскага піянернага батальёна капітанам К. Г. *Ігельстромам,* паручнікам А. І. *Вягеліным* (стрыечны брат апошняга) і інш. Магчыма, генетычна звязана з Т-вам сяброў, якое дзейнічала ў Валынскім уланскім палку. Налічвала 45 членаў. Арганізацыйна падзялялася на 3 ступені. Вышэйшую ступень складаў кіруючы цэнтр арг-цыі — камітэт, у які ўваходзілі Ігельстром, Вягелін, падпаручнік Нясвіжскага карабінернага палка П. І. *Гофман,* радавы (разжалаваны з чыноўнікаў 12-га класа) А. М. Угрычыч-Трэбінскі, падпаручнік Самагіцкага грэнадзёрскага палка Э. А. Пятроўскі. У 2-ю ступень — «таварыства згоды» — уваходзілі цывільныя асобы: канцылярыст Беластоцкага гал. суда Л. І. Вронскі, служачы дваранскага сходу А. М. Грынявіцкі, настаўнік гімназіі Ф. В. Ардынскі, шляхціц І. С. *Высоцкі.* 3-я ступень (падрыхтоўчая) складалася з членаў раней самастойнага т-ва *«Заране»*: вучняў гімназіі Ф. Баркоўскага, К. В. Ардынскага, А. Дз. Яневіча і інш. Дзеля канспірацыі члены адной ступені не павінны былі ведаць членаў другой. Мэтаю т-ва абвяшчалася «вольнасць», «асвета сябе і іншых, узаемная дапамога і дабро агульнае». Па паліт. ідэалах «В. с.» блізкія да ранніх дзекабрысцкіх арганізацый. Ускосныя даныя сведчаць пра кантакты «В. с.» з Паўн. і Паўд. т-вамі дзекабрыстаў, а таксама польскім Патрыятычным т-вам. У снеж. 1825 «В. с.», знаходзячыся яшчэ ў стадыі фарміравання, паспрабавалі ўзняць узбр. паўстанне ў войску (гл. *Літоўскага піянернага батальёна выступленне 1825*), але пацярпелі няўдачу. Актыўныя члены т-ва былі арыштаваны, па царскай канфірмацыі (1827) прыгавораны: Рукевіч, Вягелін, Ігельстром да 10 гадоў катаргі з далейшым пасяленнем у Сібіры; Грынявіцкі, Вронскі, Высоцкі, браты Ардынскія да 5 гадоў катаргі з далейшым пасяленнем у Сібіры; у арыштанцкія роты Бабруйскай крэпасці накіраваны Угрычыч-Трэбінскі на 5 гадоў, Гофман, Пятроўскі, М. Ф. *Вільканец,* Ваяховіч на 6 мес., Баркоўскі і Яневіч на 4 месяцы.

*Кр.:* Извлечение из выписки, составленной в Аудиторианском департаменте по военносудному делу Литовского пионерного батальона о капитане Игельстроме, поручике Вегелине и прочих // Декабристы: Биогр. справ. М., 1988.

*Літ.:* С и в е р с А. А. «Тайное общество военных друзей» // Дела и дни. 1920. Кн. 1; О л ь ш а н с к и й П. Н. К вопросу о связях декабристов с польским освободительным движением: (Лит. корпус. Общество военных друзей) // Из истории революционного движения в России в XIX — начале XX в. М., 1958; Я г о ж. Новые документы о русско-польских революционных связях // Славянский архив: Сб. ст. и материалов. М., 1959; Я г о ж. Декабристы и польское национально-освободительное движение. М., 1959. С. 94—115; Очерки революционных связей народов России и Польши, 1815—1917. М., 1976. С. 46—71; О р л о в а Н. К. Общество военных друзей в Отдельном Литовском корпусе (1825 г.) // Вестн. Моск. ун-та. Сер. 8. История. 1982. № 1; Б у к ч и н С. К мечам рванулись наши руки: Докум. повести. 2 изд. Мн., 1985.

*В. В. Швед.*

**ВАЗАВО́Е,** у ВКЛ пошліна з кожнага воза за перавоз тавараў цераз мяжу.

**ВАЗІ́ЛА** Аляксандр Цімафеевіч [літ. псеўд. А л е к  Д э - В а з і л і н і, А л ь - В э, К л і м  З л о б і ч, П р а ў д а л ю б, А н т о н  Х а т ы н я; 28.8(9.9).1888, мяст. Прапойск Быхаўскага пав., цяпер г. Слаўгарад — 1943(?)], грамадскі дзеяч, паэт, публіцыст. У 1908 за ўдзел у рэв. руху выключаны з вышэйшых курсаў Лесгафта, у 1916—17 вучыўся на курсах кааперацыі ў Петраградзе. У 1912—13 друкаваў вершы і апавяданні ў газ. «Белорусский вестник». У 1914 у г. Златауст выдаў зб. паэзіі «Хвалі», канфіскаваны цэнзурай. У 1917—18 належаў да сацыял-дэмакратаў-інтэрнацыяналістаў, быў старшынёй Быхаўскай пав. земскай управы. Уваходзіў у склад *Беларускага абласнога камітэта* пры Усерасійскім савеце сял. дэпутатаў. На *Усебеларускім з'ездзе 1917* у Мінску выступіў супраць намераў абвясціць бел. дзяржаўнасць. У 1918 заг. агітацыйна-выдавецкага пададдзела Бел. аддзела Камісарыята па справах нацыянальнасцей Саюза камун Паўн. вобласці (гл. *Петраградскае аддзяленне Беларускага нацыянальнага камісарыята*), рэдактар час. *«Чырвоны шлях»,* аўтар публіцыстычных артыкулаў. Пасля 1918 ад паліт. дзейнасці адышоў. Неаднаразова быў рэпрэсіраваны органамі сав. улады. Ёсць звесткі, што загінуў у палітізалятары г. Уладзімір.

*Тв.:* Речь, произнесенная на 1-м Всебелорусском съезде. Пг., 1918.

*Літ.:* Б л ю м А., Д м и т р и н Г. Книга и время: Рассказы о редких изданиях и библиогр. находках. Челябинск, 1962; М е л ь н і к а ў М. Ці ведаеце вы Аляксандра Вазілу? // ЛіМ. 1963. 2 жн.; И г н а т е н к о И. М. Беднейшее крестьянство — союзник пролетариата в борьбе за победу Октябрьской революции в Белоруссии (1917—1918 г.). М., 1962. С. 365—366; К р у т а л е в и ч В. А. Рождение Белорусской Советской Республики. Мн., 1975. С. 132—133, 297; Б е л ю ш и н М. Арестованная брошюра // Неман. 1975. № 1. *В. У. Скалабан.*

**ВАЗНЯСЕ́НСКІ** Аляксандр Мікалаевіч [5(17).7.1888, с. Чукалы Сімбірскай губ., цяпер Ардатаўскі р-н Мардовіі — 16.1.1966], беларускі і рускі літаратуразнавец і тэатразнавец. Д-р філалагічных навук (1944), праф. (1927). Скончыў Варшаўскі ун-т (1913). Працаваў у Растоўскім ун-це (1915—21), БДУ (1921—30), ВНУ Масквы і Казані. У 1920-я гады даследаваў гісторыю бел. л-ры, станаўленне маст. прозы Я. Коласа, структуру сюжэтаў і стылістыку Я. Купалы, паэзію М. Багдановіча, метадалагічныя праблемы гісторыі л-ры. У дакладзе «Паэтычнае мастацтва навейшай беларускай літаратуры» на Акадэмічнай канферэнцыі па рэформе бел. правапісу і азбукі (1926) абгрунтаваў канцэпцыю творчага метаду класікаў бел. л-ры як сінтэз рэалізму і рамантызму. У некаторых даследаваннях допускаў схематызацыю літ. працэсу, аддаваў перавагу аналізу кампазіцыйнай структуры твораў, часам ацэньваў рэалізм як натуралістычнае апісальніцтва. Даследаваў праблемы бел. драматургіі, сцэнаграфіі, акцёрскага майстэрства. У пач. 1930-х гадоў пад націскам вульгарна-сацыялагічнай крытыкі, ідэалагічных абвінавачванняў з боку парт. органаў выехаў у Расію.

*Тв.:* Паэтыка М. Багдановіча. Коўна, 1926; Асноўныя прынцыпы пабудовы беларускае навукі аб літаратуры. Мн., 1927; Паэмы Янкі Купалы: (Сюжэтная пабудова і стыль). Мн., 1927; Сучасны беларускі тэатр (21—26 год). Мн., 1927; Ля вытокаў мастацкай прозы Я. Коласа // Полымя. 1928. № 8; 1929. № 1—4.

*Літ.:* К о н а н У. Беларуская літаратура стала яму роднай // Бел. мова і літ. ў школе. 1988. № 7. *У. М. Конан.*

**ВАЙНА́ МАСКО́ЎСКАЙ ДЗЯРЖА́ВЫ З ВЯЛІ́КІМ КНЯ́СТВАМ ЛІТО́ЎСКІМ**

**1492—94,** першая адкрытая вайна Маскоўскай дзяржавы за т. зв. «отчину» — усходнеслав. землі, што былі ў складзе ВКЛ. Ёй папярэднічалі парубежныя канфлікты, якія пачасціліся з 1486, калі ваяводы Івана III напалі і разрабавалі Любуцк, Мцэнск і Вяземскае княства. 18.5.1492 Іван III накіраваў да польскага караля і вял. князя ВКЛ Казіміра IV пасла з праграмай тэрытарыяльных дамаганняў, аднак той вярнуўся назад, даведаўшыся пра раптоўную смерць Казіміра (7.6.1492 у Гродне). Склалася спрыяльная сітуацыя для вайны. У жн. 1492 войска на чале з Ф. Целяпнём-Абаленскім, накіраванае на Любуцк і Мцэнск, папаліла гарады, а баяр і жыхароў забрала ў палон. Восенню маскоўскія ваяводы занялі Хлепень і Рагачоў. У гэты час у Маскву перабеглі князі з парубежных раёнаў ВКЛ — С. Ф. Варатынскі, М. Р. Мязецкі, А. і В. Бялеўскія, А. Ю. Вяземскі, што дазволіла Івану III без цяжкасцей авалодаць землямі ў вярхоўях Акі. Пры дапамозе князёў-перабежчыкаў былі заняты Мязецк, Сярпейск, Масальск, спалены Апакаў, пазней войска кн. Д. В. Шчэні захапіла Вязьму. Рыхтуючыся да пашырэння ваенных дзеянняў, вял. кн. маскоўскі сабраў войска ў Вял. Луках, Ноўгарадзе, Пскове і Цверы, заклікаў крымскага хана Менглі-Гірэя нанесці ўдар па ВКЛ з поўдня. У 1493 маскоўскае пасольства наведала кн. Конрада Мазавецкага і магістра Тэўтонскага ордэна з прапановай утварыць супраць Ягайлавічаў ваен. альянс. ВКЛ не было гатова да абароны, таму вял. кн. Аляксандр накіраваў паслоў у Крым, Заволжскую Арду і да свайго брата польскага караля Яна Альбрэхта з просьбай аб дапамозе. Каб спыніць агрэсію, віленскі двор прапанаваў выдаць дачку Івана III Алену замуж за вял. кн. Аляксандра. Гэта паслужыла пачаткам перагавораў, у час якіх маскоўскі ўрад імкнуўся заняць як мага больш тэрыторыі ВКЛ. «Вялікае пасольства» вял. кн. Аляксандра, у склад якога ўваходзілі трокскі ваявода П. Яновіч, жмудскі староста С. Я. Кезгайла, Войтка Яновіч і пісар Хв. Грыгор'еў, прыбыло ў Маскву 17.1. 1494. У выніку складаных перагавораў было дасягнута пагадненне аб новай мяжы паміж дзяржавамі. Да Маскоўскай дзяржавы адышлі Вяземскае княства і землі ў басейне Верхняй Акі, дзе дакладная мяжа не была вызначана, што пакідала падставы для будучых канфліктаў. ВКЛ адмовілася ад прэтэнзій на Ноўгарад Вялікі, Пскоў, Цвер, Разань, прызнала ўсе «ад'езды» вярхоўскіх князёў. Пасольства ВКЛ правяло таксама перагаворы аб сватанні Аляксандра да дачкі Івана III і, атрымаўшы станоўчы адказ, прадстаўляла вял. князя на заручынах.

*Літ.:* Базилевич К. В. Внешняя политика Русского централизованного государства. Вторая половина XV в. М., 1952; Греков И. Б. Очерки по истории международных отношений Восточной Европы XIV—XVI вв. М., 1963; Natanson-Leski J. Dzieje granicy wschodniej Rzeczypospolitej. Cz. 1. Lwów; Warszawa, 1922.
*Г. М. Сагановіч.*

**ВАЙНА́ МАСКО́ЎСКАЙ ДЗЯРЖА́ВЫ З ВЯЛІ́КІМ КНЯ́СТВАМ ЛІТО́ЎСКІМ 1500—03,** другая вайна Маск. дзяржавы за ўсходнеславянскія землі, якія ўваходзілі ў склад ВКЛ. У канцы 1490-х гадоў адносіны паміж Маск. дзяржавай і ВКЛ настолькі абвастрыліся, што новы канфлікт з-за ўсх. зямель ВКЛ стаў непазбежны. Рыхтуючыся да нападу, вял. кн. маскоўскі Іван III заключыў ваен. саюз з Крымскім ханствам, устанавіў добрыя адносіны з Турцыяй. Фармальнай зачэпкай для пачатку вайны сталі чуткі аб ганеннях на праваслаўнае насельніцтва ў ВКЛ і пераход парубежных князёў пад уладу Масквы. Ужо ў маі 1499 пад'ячы Хв. Шастакоў, які знаходзіўся пры княгіні *Алене Іванаўне* ў Вільні, даслаў тайны ліст вял. кн. маскоўскаму, у якім паведамляў, што княгіню і інш. праваслаўных быццам бы сілай прымушаюць прымаць каталіцтва (сама Алена ніколі не пісала пра гэта бацьку). Вясною 1500 з ВКЛ на службу да Івана III перайшлі кн. С. І. Бельскі, пазней В. І. Шамячыч, мажайскі кн. Сямён Іванавіч і інш. вярхоўскія і чарнігава-северскія князі разам з «дварамі», баярамі і слугамі. У крас. 1500 у Маскву прыехала пасольства вял. князя ВКЛ Аляксандра на чале са смаленскім намеснікам С. Кішкам, якое імкнулася зняць напружанне паміж дзяржавамі. Вял. кн. Аляксандр пайшоў на кампраміс і ўпершыню звяртаўся да Івана III як да «государя всея Руси», патрабуючы вярнуць «здрадцаў» (князёў-перабежчыкаў) і не чыніць больш крыўд на межах. Але вял. кн. маскоўскі ўсю віну пераклаў на Аляксандра і, выслаўшы назад паслоў, накіраваў у ВКЛ сваё войска (3.5.1500 ваявода Я. Захар'ін з палкамі рушыў да Бранска). Толькі пасля гэтага ў Вільню быў адпраўлены ганец І. Целяшоў з граматай, у якой абвяшчалася, што Іван III «за христианство хочет стояти» і пачынае вайну. Войска Захар'іна тым часам авалодала Бранскам, заняло Пуціўль, Мцэнск, Сярпейск, Старадуб, Гомель, Любеч, Ноўгарад-Северскі, Рыльск. На бок Масквы перайшлі князі Масальскія і Трубяцкія. Другая групоўка войск на чале з Ю. Захар'іным была накіравана да Смаленска, на Дарагабуж. Трэцяя групоўка стаяла напагатове ў Вял. Луках, а чацвёртая — у рэзерве ў Цверы. У канцы чэрв. да Смаленска падышоў конны корпус ВКЛ пад камандаваннем найвышэйшага гетмана К. І. Астрожскага. 14.7. 1500 чатырохтысячны атрад коннікаў найвышэйшага гетмана атакаваў на р. Вядрошы пад Дарагабужам аб'яднаныя сілы маскоўскіх ваявод (40 тыс. чал.) і ў жорсткай шасцігадзіннай бітве быў амаль цалкам знішчаны (гл. *Бітва на Вядрошы 1500*). Іван III патрабаваў ад крымскага хана Менглі-Гірэя зрабіць абяцаны напад на ВКЛ і ўдарыць у напрамку Слуцк — Тураў — Пінск — Мінск. Не падрыхтаваны да вайны вял. кн. Аляксандр шукаў дапамогі праз дыпламатаў. Летам і восенню 1500 паслы ВКЛ спрабавалі адгаварыць Менглі-Гірэя ад ваен. саюзу з Масквой, яны пабывалі таксама ў Малдавіі, Заволжскай Ардзе, Лівонскім ордэне, у братоў Аляксандра — польскага караля Яна Альбрэхта і караля венграў і чэхаў Уладзіслава. 21.2.1501 паслы з Вільні і Кракава разам прыбылі ў Маскву і спрабавалі пераканаць Івана III спыніць ваен. дзеянні, але беспаспяхова. У маі 1501 маскоўскае войска зноў рушыла на ВКЛ, а ў чэрв. з Пд па ім ударылі крымскія татары. На баку княства ў вайну ўступілі толькі Заволжская Арда і Лівонскі ордэн, магістр якога Вальтэр фон Плетэнберг у маі 1501 распачаў ваен. дзеянні. Пасля смерці Яна Альбрэхта вял. кн. Аляксандр быў выбраны польскім каралём і выехаў у Польшчу. Адначасова з прыняццем *Мельніцкага акта 1501* узнаўлялася унія паміж ВКЛ і Каралеўствам Польскім. Адсутнасць манарха і спадзяванні на хуткую дапамогу палякаў абумовілі пасіўнасць войск ВКЛ у 2-й пал. 1501. Іван III накіраваў ва Усх. Беларусь аб'яднаныя сілы, якія 4.11.1501 разбілі пад Мсціславам групу войск кн. М. Іжаслаўскага і А. Дашковіча. Летам 1502 маскоўскае войска імкнулася захапіць Смаленск, але вымушана было адступіць. Яно заняло і спаліла Оршу, разрабавала мсціслаўскія воласці, а таксама землі на Віцебшчыне і Полаччыне. Восенню таго ж года «воевати в Литовскую землю» хадзілі ваяводы з Ноўгарада, Ржэва і Северскай зямлі. У лют. 1503 Іван III зноў паслаў на Беларусь «князей і воевод многих со многими людми». Толькі заключэнне уніі з Польшчай і падтрымка ВКЛ Лівонскім ордэнам схілілі Івана III да перагавораў. Спыніць вайну заклікала бацьку і княгіня і каралева Алена Іванаўна. 4.3.1503 у Маскву прыбыло пасольства вял. кн. Аляксандра. Пасля вострых спрэчак былі падрыхтаваны «перамірныя граматы» (зацверджаны 2 крас.), якія абвяшчалі шасцігадовае перамір'е (1503—09) і вызначалі новыя межы паміж дзяржавамі. Да Масквы адышлі вял. тэрыторыі ВКЛ з гарадамі Белая, Бранск, Веліж, Гомель, Дарагабуж, Дрокаў, Карачаў, Любеч, Любуцк, Масальск, Мглін, Мцэнск, Мязочаск, Невель, Ноўгарад-Северскі, Папова Гара, Почап, Пуціўль, Радагошч, Рыльск, Серанск, Старадуб, Сярпейск, Трубчэўск, Хоцім, Чарнігаў і інш.

*Літ.:* Базилевич К. В. Внешняя политика Русского централизованного государства. Вторая половина XV в. М., 1952; Герберштейн С. Записки о Московии. М., 1988; Грицкевич А. П. Внешняя политика Великого княжества Литовского в первой половине XVI в. (восточное направление) // Франциск Скорина и Вильнюс. Вильнюс, 1991; Зимин А. А. Россия на пороге нового времени: (Очерки полит. истории России первой трети XVI в.). М., 1972; Kolankowski L. Polska Jagiellonów: Dzieje polityczne. Lwów, 1936; Natanson-Leski J. Dzieje granicy wschodniej Rzeczypospolitej. Cz. 1. Granica Moskiewska w epoce Jagiellońskiej. Lwów; Warszawa, 1922.
*Г. М. Сагановіч.*

**ВАЙНА́ МАСКО́ЎСКАЙ ДЗЯРЖА́ВЫ З ВЯЛІКІМ КНЯ́СТВАМ ЛІТО́ЎСКІМ 1507—08,** трэцяя вайна паміж Маскоўскай дзяржавай і ВКЛ за ўсходнеславянскія землі. Віленскі сойм у лют. 1507 прыняў рашэнне аб вяртанні зямель, страчаных у час папярэдніх (1492—94, 1500—03) войнаў Маскоўскай дзяржавы з ВКЛ У сак.—крас. 1507 пасольства Жыгімонта I Старога ў Маскве ва ультыматыўнай форме запатрабавала вярнуць гарады і землі, захопленыя Іванам III. Маскоўскі ўрад не прыняў патрабаванняў і заявіў аб гатоўнасці пачаць вайну супраць ВКЛ. Ужо ў крас 1507 Вял. кн. Васіль III накіраваў конныя палкі на Полацк і Смаленск. Абмінуўшы фартэцыі, ваяводы зайшлі глыбока на тэр. Беларусі, толькі тады з Кракава ў ВКЛ выехаў Жыгімонт, які загадаў гетману найвышэйшаму С. П. Кішку сабраць земскую службу (да 14 тыс. чал ) каля Менска У чэрвені, калі паспалітае рушэнне сабралася, маскоўскія ваяводы пакінулі межы ВКЛ. Кішка накіраваў войска да Друцка, адкуль пасылаў невял атрады ваяваць на парубежныя маскоўскія землі. У хуткім часе паспалітае рушэнне было распушчана. Крымскія татары, якія абяцалі дапамогу Жыгімонту, не зрабілі намечаныя напады на Пуціўль і Чарнігаў. У кастр.—ліст. 1507 Васіль III зноў накіраваў войскі ваявод В. Холмскага і Я Захар'іна ў Бел. Падняпроўе. Яны асадзілі Крычаў і Мсціслаў, але гарады мужна абараняліся Калі на дапамогу асаджаным стала падыходзіць паспалітае рушэнне, ваяводы вярнуліся ў свае землі. Другі этап вайны звязаны з бунтам, узнятым у студз. 1508 на Беларусі М. Л. Глінскім (гл. ў арт. *Глінскія).* Сабраўшы каля 2 тыс. чал., Глінскі авалодаў Туравам, Мазыром, спрабаваў захапіць Слуцк і інш гарады, але не меў падтрымкі насельніцтва. Вясной да бунтаўшчыкоў з'явіўся маскоўскі ўпаўнаважаны Губа Маклакоў, які дамовіўся пра сумесныя ваен. дзеянні і перадачу занятых на Беларусі гарадоў непасрэдна Глінскаму. Васіль III накіраваў войска на чале з В І. Шамячычам на Слуцк да Глінскага, палкі Д. Шчэні з Вял. Лук і Я. Захар'іна з Масквы — на Смаленск, а трэцяе войска — на Полацк. У маі 1508 аб'яднаныя сілы Глінскага і Шамячыча трымалі ў аблозе Менск і спусташалі яго наваколле, рабілі рэйды ажно да Слоніма. У гэты час каля Ліды збіралася паспалітае рушэнне ВКЛ, а з Польшчы падыходзіла пяцітысячнае войска. Аб'яднаўшы сілы (агульная колькасць войска 15—16 тыс. чал.), Жыгімонт I даручыў камандаванне імі гетману найвышэйшаму К. І Астрожскаму. У пач чэрвеня пры набліжэнні аб'яднанага войска ВКЛ ваявода Шамячыч і Глінскі пакінулі Менск і адступілі на У, а ў сярэдзіне ліпеня, таксама не прыняўшы бою, адступіла буйная групоўка маскоўскага войска, якая трымала ў аблозе Оршу. У жн. 1508 Астрожскі і М. Фірлей з атрадамі конніцы напалі на Северскую зямлю, а Кішка з невял. атрадам рушыў у напрамку Масквы і захапіў Дарагабуж і Таропец, аднак ваяводы Васіля III ударам у адказ вярнулі гэтыя гарады. Астрожскі з Фірлеем таксама мусілі вярнуцца ў свае землі. Вайна скончылася безвынікова. 19.9.1508 падпісана пагадненне аб «вечным міры», якое замацоўвала межы, што склаліся паміж Маскоўскай дзяржавай і ВКЛ у выніку папярэдніх войнаў (1492—94 і 1500—03) Абодва манархі абавязаліся разам выступаць супраць «всех недругов», у т. л. і крымскіх татар. Князі Глінскія атрымалі права свабодна выехаць у Маскоўскую дзяржаву

*Літ* Акты, относящиеся к истории Западной России, собранные и изданные Археографическою комиссиею Т 1 Спб , 1846, Греков И. Б Очерки по истории международных отношеиий Восточной Европы XIV—XVI вв М, 1963; Herbst St Wojna Moskowska 1507—1508 Warszawa, 1935, Natanson-Leski J Dzieje granicy wschodniej Rzeczypospolitej Cz 1. Granica Moskiewska w epoce Jagiellonskiej Lwów, Warszawa, 1922 *Г М Сагановіч*

**ВАЙНА́ МАСКО́ЎСКАЙ ДЗЯРЖА́ВЫ З ВЯЛІКІМ КНЯ́СТВАМ ЛІТО́ЎСКІМ 1512—22,** чацвертая вайна паміж Маскоўскай дзяржавай і ВКЛ за ўсходнеславянскія землі. «Вечны мір» 1508, якім скончылася *вайна Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1507—08,* маскоўскі ўрад разглядаў як часовую перадышку. З 1510 Васіль III займаўся непасрэднай падрыхтоўкай смаленскай кампаніі. Яго дыпламаты заручыліся падтрымкай Лівонскага і Тэўтонскага ордэнаў Вайна пачалася першым паходам на Смаленск, прымеркаваным на зіму 1512—13. У ліст. 1512 выйшла войска кн. I М. Рапніна-Абаленскага і канюшага І. А. Чаляднiна, якое, спаліўшы пасады Смаленска, павінна было накіравацца да Оршы і Друцка, а на злучэнне з ім з Вялікіх Лук рухалася войска кн. В. С. Адоеўскага. У снеж. 1512 на Смаленск рушылі гал. сілы з Масквы на чале з Васілем III. Пасля шасцітыднева аблогі маскоўскае войска, якое пацярпела значныя страты, вярнулася дадому. У чэрв. 1513 пачаўся 2-і паход на Смаленск Да восені пад горадам была сканцэнтравана 80-тысячная маскоўская армія з вял. колькасцю гармат і 2 тыс пішчаляў. Каля 24 тыс. ратнікаў ваявалі на Полаччыне, 8 тыс. чал — пад Віцебскам, а 14-тысячная групоўка аблажыла Оршу. Жыхары Смаленска зноў адбілі напад маскоўскіх войск, і Васіль III у ліст. 1513 адвеў свае палкі назад. У лют. 1514 прынята рашэнне аб 3-м паходзе на Смаленск. Тады ж у выніку перагавораў паміж Маскоўскай дзяржавай і «Свяшчэннай Рымскай імперыяй» утварылася ваен. кааліцыя супраць ВКЛ і Кароны Польскай, у якую ўвайшлі яшчэ 5 еўрапейскіх краін. Паводле пагаднення ў выпадку перамогі членаў кааліцыі аўстрыйскі эрцгерцаг Максіміліян I прызнаваў права Масквы на бел і ўкр землі, а Васіль III — права Вены на некаторыя польскія тэрыторыі. У канцы мая 1514 пачаўся 3-і паход на Смаленск, у якім удзельнічала каля 80 тыс маскоўскіх ратнікаў. 31 ліп пасля няспыннага абстрэлу з 300 гармат Смаленск капітуляваў. Імкнучыся выкарыстаць гэты поспех, ваяводы Васіля III хутка рухаліся ў глыб Беларусі. Яны захапілі Мсціслаў, Крычаў, Дуброўну, перайшлі Дняпро і Друць і толькі каля Бярэзіны сутыкнуліся з перадавымі атрадамі 35-тысячнай арміі вял. кн. літ Жыгімонта I Старога. 8.9.1514 у час генеральнай бітвы пад Оршай гетман найвышэйшы К І. Астрожскі дашчэнту разбіў 80-тысячнае маскоўскае войска (гл. *Аршанская бітва 1514).* Усх Беларусь была вызвалена ад непрыяцеля. Астрожскі аблажыў Смаленск, але авалодаць горадам у яго не хапіла сіл Перамога пад Оршай была ўдала выкарыстана ў дыпламатычных колах. Максіміліян I адмовіўся ад блоку з Масквой, у выніку чаго кааліцыя распалася На Венскім кангрэсе 1515 Ягайлавічы і Габсбургі прыйшлі да поўнага паразумення. Максіміліян I заняў прыхільныя да Жыгімонта I Старога пазіцыі і абяцаў дапамагаць яму ў прымірэнні з Васілем III. На працягу 3 гадоў пасля перамогі пад Оршай ваен. дзеянні вяліся стрымана. Гэта былі асобныя рэйды ў глыб чужой тэрыторыі. Вясной 1515 маскоўскае войска з Пскова хадзіла на Рослаў, спаліла Браслаў і Друю, а харугвы ВКЛ на чале з А. Дашкевічам і А Неміровічам пры падтрымцы крымскіх татар напалі на Северскую зямлю. У тым жа годзе маскоўскія ваяводы хадзілі на Полацк, Віцебск і Мсціслаў, а войска ВКЛ — на Вял. Лукі. У 1516 абодва бакі абмежаваліся дробнымі парубежнымі рэйдамі. У 1517 войска Астрожскага з Полацка рушыла на Пскоўшчыну і аблажыла Апочку, асобныя харугвы хадзілі да Варонеча, Краснага, Велілі і Пскова, аднак у цэлым кампанія скончылася няўдала. Летам 1517 у Маскву прыбыло пасольства Жыгімонта I Старога, якое пры пасрэдніцтве імператарскага ўпаўнаважанага З. *Герберштэйна* спрабавала дамовіцца пра спыненне вайны, але пазіцыі абодвух бакоў былі ўзаемна непрымальныя, і ваен. дзеянні актывізаваліся. Летам 1518 Васіль III накіраваў на Беларусь свае войскі з Вял. Лук — на Полацк, з Белай — на Віцебск, са Смаленска і Старадуба — у Падняпроўе Пад Полацкам маскоўскае войска было разгромлена і адступіла, у іншых месцах яно даходзіла да Слуцка, Менска, Навагрудка. У 1519 у вайну на баку Маскоўскай дзяржавы ўступіў Тэўтонскі ордэн У ліп 1519 на Кіеўшчыну і Валынь уварвалася 40-тысячнае крымскае войска і разбіла конніцу Астрожскага пад Сокалам Выкарыстаўшы цяжкі для ВКЛ момант, Васіль III зноў ударыў па Беларусі з Вял. Лук, Смаленска і Старадуба Накіроўваючыся да Вільні, яго войскі па дарозе палілі гарады і вёскі, бралі ў палон жыхароў і дайшлі да Крэва, Ашмян, Меднікаў, а праз месяц вярнуліся дадому Апошняй акцыяй Васіля III у гэтай вайне стаў

рэйд ваяводы В Гадунова ў лют 1520 пад Полацк і Віцебск Перамогі над тэўтонцамі і пагадненне, падпісанае Жыгімонтам I Старым з Крымскім ханствам, схілілі Васіля III да перагавораў Летам 1520 пасольства ВКЛ дамовілася ў Маскве пра спыненне ваен дзеянняў Для падпісання мірнага пагаднення «вялікае пасольства» на чале з полацкім ваяводам П Кішкам прыбыло ў Маскву толькі ў 1522 Пагадненне мела кампрамісны характар і прадугледжвала перамір'е тэрмінам на 5 гадоў (пасля чаго меркавалася падпісаць «вечны мір») Смаленск застаўся ў Маскоўскай дзяржаве, шматлікі «маскоўскі палон» — у ВКЛ

*Літ* Акты относящиеся к истории Западной России собранные и изданные Археографической комиссиею Т 1 Спб, 1846, Герберштейн С Записки о Московии М, 1988, Карамзин Н М История государства Российского Кн 3, т 9 М, 1989, Соловьев С М История России с древнейших времен Кн 3, т 5—6 М, 1960, Зимин А А Россия на пороге нового времени (Очерки полит истории России первой трети XVI в) М, 1972 Kolankowski L Polska Jagiellonow Dzieje polityczne Lwow, 1936, Natanson Leski J Dzieje granicy wschodniej Rzeczypospolitej Cz 1 Granica Moskiewska w epoce Jagiellonskiej Lwów, Warszawa, 1922 1100 Jahre Österreichische und Europaische Geschichte in Urkunden und Dokumenten des Haus-, Hof- und Staatsarchivs Wien 1949 Nr 34 *Г М Сагановіч*

**ВАЙНА́ МАСКО́ЎСКАЙ ДЗЯРЖА́ВЫ З ВЯЛІКІМ КНЯ́СТВАМ ЛІТО́ЎСКІМ 1534—37,** пятая вайна паміж Маскоўскай дзяржавай і ВКЛ за ўсходнеславянскія землі. Вестка пра смерць вял кн. маскоўскага Васіля III (1533) абудзіла ў ВКЛ надзеі на рэванш і на вяртанне страчаных раней тэрыторый у выніку войнаў Маскоўскай дзяржавы з ВКЛ канца 15 — пач 16 ст Для вяртання гэтых зямель склалася спрыяльная сітуацыя з канца 1533 Крым займаў антымаскоўскую пазіцыю, у самой Маскве выспяваў унутраны разлад (праўда, чуткі пра гэта даходзілі да Вільні занадта перабольшанымі) Кал пасольства малалетняга Івана IV выказала надзею на працяг міру, вял. князь ВКЛ Жыгімонт I Стары адказаў, што мір можна падпісаць на ўмовах вяртання на межы, якія мелі дзяржавы у часы княжання Івана III [1462—1505] Нежаданне Масквы прыняць гэту прапанову азначала непазбежнасць новай вайны Рашэнне пачаць яе прыняў віленскі вальны сойм, які ўхваліў ваен. падатак на 3 гады Паводле універсала вял князя ВКЛ паспалітае рушэнне краіны (каля 24 тыс чал) мусіла сабрацца ў пач крас 1534 пад Менскам Вял спадзяванні ўскладаліся на дапамогу крымскіх татар і на бунты ў самой Маскве Аднак антымаскоўскую акцыю татар сарвала ўнутраная барацьба ў Крыме, а маскоўскі ўрад здолеў перамагчы апазіцыю і добра падрыхтавацца да вайны У пач жн 1534 вял. гетман літ Ю Радзівіл прывеў 20-тысячнае войска пад Магілеў, адтуль корпус на чале з І. Вішнявецкім быў накіраваны на Смаленск, а корпус кн А Неміровіча — у Северскую зямлю, але першы не змог авалодаць смаленскай фартэцыяй, а другі захапіў толькі Радагошч, хоць трымаў у аблозе Почап, Старадуб, Чарнігаў Вярнуўшыся, войска раз'ехалася. Зімой на Беларусь ад Старадуба, Смаленска і Пскова раптоўна ўварваліся маскоўскія ваяводы, якія амаль не сустрэлі адпору, папалілі і зруйнавалі неўмацаваныя гарадкі, дайшлі да Браслава і Навагрудка і да вясны вярнуліся ў свае межы Да наступнай ваен кампаніі ВКЛ, акрамя ўласнай земскай службы, наняло за свае грошы 5 тыс жаўнераў у Польшчы і адтуль жа атрымала дапамогу — 1 тыс коннікаў і 500 чал пяхоты Кароннае войска злучылася з паспалітым рушэннем ВКЛ у канцы мая 1535 пад Рэчыцай У ліпені ўсе сілы рушылі ў Северскую зямлю, 16 ліп яны занялі Гомель, жыхары якога самі адкрылі вароты, пазней — Почап і Радагошч, 29 жн пасля месячнай аблогі быў узяты адзін з гал. гарадоў Северскай зямлі — Старадуб У чэрв 1535 маскоўскія войскі зноў ўварваліся на Беларусь Адна іх групоўка вяла ваен дзеянні на Полаччыне, другая — на Мсціслаўшчыне, дзе спаліла Крычаў, Дуброўну, Оршу Каб звесці на нішто дапамогу з Польшчы, пасля падбухторвання маскоўскіх паслоў з Пд Карону атакаваў валошскі гаспадар Неўзабаве войска ВКЛ пакінула тэр Северскай зямлі і вярнулася ў свае межы, захаваўшы за сабой толькі Гомель Так безвынікова скончыўся чарговы год вайны На полацкай зямлі маскоўскія ваяводы збудавалі новыя замкі — Завалач і Себеж, на сваей — Велиж У канцы зімы 1536 невялікія сілы ВКЛ няўдала спрабавалі захапіць Себеж Летам гэтага ж года маскоўскія войскі вялі ваен дзеянні ў Бел Падняпроўі, але былі разгромлены пад Крычавам На гэтым ваен дзеянні спыніліся Масква, занятая барацьбой з татарамі, хацела замірэння Вільня, ад якой вайна патрабавала вял гасп -фінансавых намаганняў,— таксама Пасля спрэчак аб месцы перагавораў Жыгімонт I Стары згадзіўся прысланць да шасцігадовага Івана IV свае «вялікае пасольства», якое і з'явілася ў Маскве 12 1 1537 Праз 2 дні пачаліся цяжкія і доўгія перагаворы Абодва бакі спачатку высвятлялі, хто распачаў вайну, выстаўлялі тэрытарыяльныя дамаганні (Масква патрабавала Кіеў і Полацк, Вільня — Ноўгарад і Пскоў) Паслы ВКЛ дамагаліся вяртання ўсей Северскай зямлі і разбурэння нанава збудаваных замкаў — Себежа, Завалочча і Велiжа, а маскоўскі бок настойваў на даваен. мяжы і прасіў абмяняць усіх палонных Вільня згаджалася аддаць усіх палонных за адзін г Чарнігаў, аднак Масква не прыняла прапановы Толькі ў лют 1537 на кампрамісных умовах было дасягнута пагадненне Гомель з усей зямлей заставаўся ў складзе ВКЛ, Себеж і Завалочча перадаваліся Маскоўскай дзяржаве, астатнюю мяжу пакідалі нязменнай Падпісаны трактат прадугледжваў пяцігадовае перамір'е (да 25.3.1542), мір на межах і свабоду гандлю

*Літ* Акты, относящиеся к истории Западной России, собранные и изданные Археографическою комиссиею Т 2 Спб 1848, Карамзин Н М История государства Российского Кн 2, т 1 М 1989, Соловьев С М История России с древнейших времен Кн 3, т 5—6 М, 1960, Kolankowski L Polska Jagiellonow Dzieje polityczne Lwow 1936 Natanson-Leski J Dzieje granicy wschodniej Rzeczypospolitej Cz 1 Granica Moskiewska w epoce Jagiellonskiej Lwow, Warszawa, 1922, Rüß H Die Friedensverhandlungen zwischen Moskau und Polen-Litauen im Jahre 1537 // Jahrbücher fur Geschichte Osteuropas 1988 Bd 36, h 2

*Г М Сагановіч*

**ВАЙНА́ РАСІ́І З РЭ́ЧЧУ ПАСПАЛІ́ТАЙ 1632—34,** Смаленская вайна, вайна Расійскай дзяржавы за вяртанне Смаленскай, Чарнігаўскай і Северскай зямель, страчаных ў выніку *Дэулінскага перамір'я 1618.* Рускі цар Міхаіл Федаравіч і яго бацька патрыярх Філарэт выкарысталі перыяд безуладдзя ў Рэчы Паспалітай (у выніку смерці караля Жыгімонта III Вазы ў крас 1632) і накіравалі ў вер 1632 пад Смаленск 40-тысячнае войска пад камандаваннем ваяводы М Б Шэіна Ужо ўвосень 1632 рус войскі занялі Себеж, Невель, Усвяты, Дарагабуж, Белую, Рослаў, Трубецк, Ноўгарад-Северскі, Старадуб і інш Ваенныя дзеянні вяліся на тэр Беларусі, насельніцтва шмат цярпела ад вайны У студз 1633 войскі Шэіна асадзілі Смаленск (гарнізонам горада камандаваў падваявода кн Друцкі-Саколінскі), адначасова праніклі ў глыб Беларусі і авалодалі Асвеяй, Друяй, у чэрв. 1633 — Полацкам, Прапойскам, пасадамі Мсціслава, Крычава План Шэіна і акольнічага А В Ізмайлава авалодаць Смаленскам не ўдаўся Гетман польны літоўскі К Радзівіл перакінуў у Смаленск падмогу (яго войска знаходзілася таксама недалека ад горада) У гэты час крымскія татары зрабілі набег на Тульскі, Маскоўскі і інш паветы Расійскай дзяржавы Частка казакоў і дваран пакінула рус войска У канцы жн 1933 пад Смаленск падышоў польскі кароль Уладзіслаў IV з 25-тысячным літ і польскім войскам і некалькімі тысячамі запарожскіх казакоў У выніку некалькіх бітваў рус войска было адцеснена ад Смаленска і акружана Уладзіслаў IV паслаў атрад у Дарагабуж, дзе былі знішчаны ўсе запасы, рус. войска засталося без харчавання 15(25) 2 1634 Шэін падпісаў акт аб капітуляцыі, паводле якога рэшткі рус арміі (8 тыс чал), пакінуўшы усю артылерыю (123 гарматы), шмат інш зброі і 129 штандараў, адышлі з-пад Смаленска Мірныя перагаворы закончыліся *Палянаўскім мірам 1634* («вечнае даканчанне»), паводле якога Расійская дзяржава атрымала г. Сярпейск і крэпасці Трубчэўск, Ахтырку і Лебядзін Уладзіслаў IV афіцыйна адмовіўся ад прэтэнзій на рус трон, што для цара

Міхаіла Фёдаравіча было самай важнай умовай. Кароль атрымаў за адмову 200 тыс. руб. За паражэнне ў вайне вінаватыя баярын Шэін і акольнічы Ізмайлаў паводле прыгавору Баярскай думы пакараны смерцю.

*Літ.:* Соловьев С. М. История России с древнейших времен. Кн. 5, т. 9—10. М., 1961; Konopczyński W. Dzieje Polski nowożytnej. London, 1958. T. 1. S. 291—294; Jasienica P. Rzeczpospolita obojga narodów. 2 wyd. Warszawa, 1982. Cz. 1. S. 370—373. *А. П. Грыцкевіч.*

**ВАЙНА́ РАСІІ З РЭ́ЧЧУ ПАСПАЛІ́ТАЙ 1654—67,** феадальная захопніцкая вайна рус. самадзяржаўя за землі Смаленшчыны, Беларусі, Украіны, Літвы, Польшчы і польскі трон. Вайне папярэднічалі шматлікія гар. паўстанні, якія ў сярэдзіне 17 ст. ахапілі значныя рэгіёны Расійскай дзяржавы і стварылі выбуховую грамадска-паліт. атмасферу. Асн. рухаючай іх сілай былі ніжэйшыя і сярэднія слаі пасадскага насельніцтва, якія змагаліся за паляпшэнне свайго эканам. і сац. становішча. Адначасовыя выступленні сялян і халопаў надалі барацьбе антыфеад. характар. Да паўстаўшых далучыліся стральцы, пушкары, казакі і інш. служылыя людзі, якія выступалі супраць фінансавых злоўжыванняў ваен. і прыка́знай адміністрацыі, за палягчэнне вайсковай службы. Шмат якія дваране і дзеці баярскія патрабавалі ад цара Аляксея Міхайлавіча новых зямель з сялянамі, бестэрміновага запрыгоньвання сялян, рэформ суда і ўлады і інш. Сітуацыя ўскладнялася барацьбой двух буйных груповак феадалаў — баяр і духавенства за свой прыярытэт і ўдзел у кіраванні дзяржавай. Пэўны ўплыў на развіццё падзей у Расіі аказвала *антыфеадальная вайна 1648—51* на Беларусі і Украіне. У гэтых складаных умовах царскі ўрад палічыў за лепшае вырашыць увесь комплекс унутраных сацыяльна-паліт. і эканам. праблем шляхам развязвання вайны з даўнім сапернікам — Рэччу Паспалітай. Каб лакалізаваць ваен. дзеянні і гарантаваць неўмяшанне іншых дзяржаў, Расія накіравала пасольствы ў Галандыю, Францыю, Аўстрыю, але мэта не была дасягнута, паколькі Крымскае ханства і Швецыя мелі свае інтарэсы на Украіне і ў Прыбалтыцы і апынуліся ўцягнутымі ў канфлікт. Акрамя расійскага баярства і духавенства, на паўд.-ўсх., паўд.-зах. і ўсх. землі Беларусі рэальна прэтэндавала ўкр. старшына. Прапанову аб наступленні на бел. землі ўкр. казацкая дэлегацыя ўзнімала яшчэ ў 1651 у час сваіх перагавораў у Маскве, але расійскае баярства без энтузіязму аднеслася да гэтага пажадання, убачыўшы ў казаках сваіх канкурэнтаў. Пытанне аб вайне з ВКЛ і Польшчай было ў прынцыпе вырашана ўжо ў лют.— сак. 1653. Летам 1653 рус. ўрад запатрабаваў ад Рэчы Паспалітай ўзнаўлення дзеяння на Украіне Збораўскага дагавора 1649 (зацверджана аўтаномія Правабярэжнай Украіны ў складзе Рэчы Паспалітай), аднак патрабаванне было адхілена. 1.10.1653 Земскі сабор даў згоду прыняць Украіну пад уладу Расіі, што азначала афіцыйнае аб'яўленне вайны Польшчы і ВКЛ. У студз.— лютым 1653 казацкая старшына на Украіне і маскоўскія баяры распаўсюджвалі чуткі аб спрыяльнай сітуацыі для ўварвання рус. войск на Беларусь. Чуткі ішлі таксама са стаўкі Б. Хмяльніцкага і яго палкоўнікаў І. *Залатарэнкі* і І. *Выгоўскага.* У жн. 1653 Хмяльніцкі перадаваў праз царскага ганца пад'ячага Фаміна вусную заяву аб тым, што варта яму, гетману, пасланць у бел. гарады Оршу, Магілёў і інш. свае лісты да беларусаў, як «...те де белоруские люди тотчас с ляхи битца, а будет де их 200000». Апочацкі і пскоўскі ваяводы ў сваіх данясеннях сведчылі, што Полацк, Себеж і інш. гарады гатовы здацца цару. Характэрна, што такую інфармацыю яны давалі, спасылаючыся на невядомых «литовских людей», а на самай справе гэта потым аказвалася дэзінфармацыяй. Пад уплывам такіх звестак у цара Аляксея Міхайлавіча складвалася скажонае ўражанне, пра што сведчыць яго грамата Хмяльніцкаму: «литовских городов христиане бити челом присылают их от неволи лятские высвободить, а они под нашею государскою рукой быти желают радостными сердцами». З восені 1653 рус. ўрад актывізаваў закупку ў Галандыі, Швецыі мушкетаў, карабінавых і пісталетных замкоў, лат, шпаг, пораху, свінцу, наймаў на службу афіцэраў, салдат, урачоў і майстроў-збройнікаў. У кастр. 1653 цар абвясціў падрыхтоўку да вайны з Рэччу Паспалітай і пра сваё жаданне «идти на недруга своего польского короля». 23 кастр. былі прызначаны ваяводы для камандавання асн. сіламі, вызначана дата выступлення рус. войска — 20.5. 1654. 5 кастр. паводле царскага ўказа ў Ноўгарад для збору ратных людзей накіраваны баярын і ваявода В. П. Шарамецеў і думны дваранін і ясельнічы Ш. Кондыраў, у Пскоў — акольнічы С. Стрэшнеў. Пасля завяршэння фарміравання войск яны павінны былі злучыцца на граніцы з Віцебскім ваяв. і рушыць у напрамку на Невель і інш. гарады. Колькасць паўн.-зах. групоўкі войск складала 15 тыс. (паводле інш. звестак да 50 тыс. чал.), агульнае кіраўніцтва ўскладалася на Шарамецева. Цэнтр. групоўка войск была нацэлена на Смаленск, фарміравалася яна ў Маскве пад вярх. кіраўніцтвам цара Аляксея Міхайлавіча, узначальвалі яе ваяводы кн. Я. К. Чаркаскі, М. І. Адоеўскі і М. М. Цёмкін-Растоўскі. Цэнтр. групоўка войск налічвала 40—41 тыс. чал. і складалася з служылых людзей, стралецкіх прыказаў і палкоў іншаземнага строю. Трэці ўдар рус. ўрад планаваў нанесці з ПдЗ, з Бранска. Тут армію (18200 чал.) узначальваў кн. А. М. Трубяцкой з групай ваявод — князямі Г. С. Куракіным, Ю. А. Далгарукім і С. Р. Пажарскім. Яна павінна была разам з іншымі рус. арміямі ў 2-й пал. мая 1654 выступіць у напрамку Рослаў — Мсціслаў — Барысаў і паставіць пад удар Мсціслаўскае і Мінскае ваяводствы і адначасова з ПдУ ахапіць Смаленскае ваяв. Паводле звестак сучаснікаў, у царскім войску было 80—83 тыс. чал. Улічваючы густую рачную сетку ў месцах будучых баёў, рус. ўрад рыхтаваў рачныя судны для

План аблогі Смаленска ў час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1632—34. Фрагмент гравюры В. Хондыуса. 1636.

транспарціроўкі войск, зброі і харчавання да тэатра ваен. дзеянняў. У прыгранічнай паласе праводзілася глыбокая разведка мясцовасці, вывучаўся стан дарог і мастоў, вызначалася адлегласць і найкарацейшыя маршруты ад рус. мяжы да Невеля, Усвят, Азярышча (Езярышча), Полацка, Віцебска і інш. гарадоў.

Актыўныя дзеянні Расіі па падрыхтоўцы да вайны не засталіся незаўважанымі на Беларусі. Увосень 1653 у прыгранічных паветах на шляхецкіх сейміках былі разгледжаны прынцыпы арганізацыі абароны парубежных замкаў, выбраны пав. харунжыя. На выпадак шляхецкага паспалітага рушэння з кожных 3 службаў выстаўляўся 1 пешы чалавек з мушкетам ці рушніцай, а таксама з сякерай, запасам пораху, волава і правіянту на 4 тыдні. Са спазненнем, але пачаўся рамонт замкавых умацаванняў. У парубежных бел. замках былі павялічаны вайсковыя гарнізоны, прыгранічныя паветы вызваляліся ад адпраўкі паспалітага рушэння ў гал. ваен. лагер. Мясц. шляхта, конныя полацкія і віцебскія мяшчане станавіліся пад адной харугвай сваіх паветаў. Рашэннем сейма Рэчы Паспалітай 1654 усе жыхары Полацкага, Віцебскага, Мсціслаўскага і іншых усх. ваяводстваў — мяшчане, духоўныя і свецкія феадалы, жыхары розных юрыдык і сяляне ў выпадку небяспекі павінны былі абараняць мясц. замкі пад пагрозай страты сваіх уладанняў і прывілеяў. Парубежныя гарады на 4 гады вызваляліся ад усіх падаткаў. 16.2.1654 гетман ВКЛ Я. Радзівіл выдаў універсал, у якім загадаў усім наёмным войскам і паспалітаму рушэнню збірацца ў абозе пад Оршай. У пач. вайны сойм аддаў вял. булаву Радзівілу, а малую — В. Корвін-Гансеўскаму. Напярэдадні вайны царскі ўрад арганізаваў масіраваную псіхалагічную і ідэалагічную апрацоўку насельніцтва прыгранічных раёнаў Беларусі, асабліва полацкавіцебскага Падзвіння. Яна праводзілася праваслаўнымі святарамі, рус. купцамі, людзьмі, што спецыяльна пасылаліся для гэтых мэт, у т. л. і пасланцы Хмяльніцкага, якія распаўсюджвалі асобае пасланне рус. цара да жыхароў ВКЛ. У адной з такіх грамат, датаваных 11.5.1654, за 9 дзён да пераходу рус. войскамі граніцы, праваслаўнае насельніцтва заклікалася зрабіць «...прежде бы нашего царского пришествия разделение с поляки... яко же верою и чином, и хохлы, иже маете на главах своих, пострижите, кождо противу супостат Божиих вооружайтеся всяко. Аще же кто не будет таков, а в самое то бранное дело невозможно будет знати, что учинят ратные люди». Знатным, багатым людзям, якія перайшлі на бок цара, гарантавалася захаваць «...их домы и достояние от воинского разорения». Агульная маральна-псіхалагічная абстаноўка на Беларусі напярэдадні ўступлення рус. войск была складанай, яшчэ адчувалася атмасфера нядаўняй антыфеадальнай вайны 1648—51. Сацыяльная напружанасць найб. адчувалася на вёсцы, дзе дзякуючы агітацыі праваслаўнага духавенства, асабліва манахаў Куцеінскага манастыра і епіскапа полацкага і віцебскага Каліста, актыўна сеяліся царысцкія ілюзіі. Вобраз «цара-заступніка беларусцаў ісцінна хрысціянскай веры» актыўна ўкараняўся ў свядомасць сялян, што ў пачатку вайны дало пэўныя вынікі. Частка сельскага насельніцтва прыхільна сустрэла рус. войска, спадзеючыся на яго дапамогу ў расправе са шляхтай. Аднак у цэлым, нягледзячы на асобы статус шляхты і магнатаў, захоўвалася векавая традыцыя гатоўнасці да барацьбы са знешнім ворагам. Грамадства яшчэ шчыльней згуртавалася, калі рус. ваяводы, што ўступілі ў межы Беларусі, пачалі ажыццяўляць устаноўку цара: «Касцёлам не быць (а малцца ў дамах), уніятам не быць, жыдам не быць!». Вельмі паказальная ўстаноўка цара на пажаданы рэліг. і нац. раскол сярод насельніцтва Беларусі. У грамаце ад 7.3.1654 ваяводам у Ноўгарадзе цар пісаў: «А ратным людям приказали б есте накрепко, чтоб они белорусцов крестьянской веры, которые против нас не будут, и их жон, и детей не побивали и в полон не имали, и никакого дурна над ними не делали, и животов их не грабили». Беларусы-уніяты і католікі, яўрэі і татарскае насельніцтва ў разлік не прымаліся. Гэта грамата, на першы погляд добразычлівая для беларусаў, на самай справе несла ў сабе патэнцыяльную катастрофу фізічнага знішчэння дарослага мужчынскага і ўсяго астатняга насельніцтва ва ўмовах вайны.

ВКЛ даўно з'яўлялася прававо дзяржавай, жыхары гарадоў і вёсак кіраваліся законамі магдэбургскага права і Статутаў ВКЛ, паводле якіх вайсковыя абавязкі грамадзян строга рэгламентаваліся. Статуты ВКЛ мелі асобны раздзел «О обороне земской» з гранічна дакладнай фармулёўкай «Павинен кождый войну служити». Жыхары Беларусі, якія ўхіляліся ад вайсковых абавязкаў у час вайны, лічыліся здраднікамі, парушальнікамі прысягі на вернасць свайму каралю, ураду горада або феадалу-сюзерэну і за гэта «караліся горлам» (смяротнай карай). Такая ж кара была тым, хто «... з неприятельми нашими порозуменье мел, листы до них або послы радечи против нам, господору и речи посполитой або остерегаючи слал, тым непрыятелем якую помоч давал. Хто бы теж замок наш неприятелю подал, кроме причины голоду гвалтовного, хто бы теж люди неприятельские в паньство нашо Великое князство Литовское здрадливе привел, а то бы на него слушне а справедливе было переведно...». Строга сочачы за ваен. абавязкамі насельніцтва, Статут ВКЛ 1588 меў і палажэнні, прасякнутыя гуманнымі адносінамі да людзей, якія абаранялі гарады і замкі ва ўмовах доўгай аблогі працўнікам. Калі абаронцы здавалі ўмацаванне па прычыне «голоду гвалтовного», гэта не лічылася здрадай і не каралася смерцю. Трагізм жыхароў Беларусі паглыбляўся тым, што наказ царскай граматы сваім ваяводам «не побивать» беларусцаў, якія не будуць выступаць супраць рус. воінаў, заставаўся добрым намерам, бо такіх паводле законаў ВКЛ быць не магло. У выніку цывільнае насельніцтва Беларусі апынулася паміж 2 ваюючых сіл, непаслушэнства якім аднолькава заканчвалася смерцю або палонам. У гэтым выпадку з'яўлялася і дзейнічала з бязлітаснай сілай другая царская фармулёўка: «Побивать, сколько милосердный Бог помощи подаст». Аднак воінскі абавязак перамагаў страх перад наступаючым рус. войскам. Статут ВКЛ 1588 так тлумачыў жыхарам Беларусі значэнне вольнасці чалавечай, непарыўна звязанай з уяўленнем аб свабодзе роднай зямлі: «Обачивали то усих веков люди мудрые, же в кождой речы посполитой чоловеку почтивому ничого не маеть быти дорожшого над вольность. А неволею так се маеть гыдити, же не только скарбами, але и смертью ее од себе отганяти есть повинен. А про то люди почтивые не только маетности, але и горл своих против кождому неприятелю выносити не жа-

Да арт. Вайна Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67. Нясвіж у пач. 17 ст. З гравюры Т. Макоўскага.

луюць, абы под их окрутное опанованье не приходили...».

Былі свае праблемы і ў ваенна-тэхн. плане. Нягледзячы на неаднаразовыя рашэнні сойма Рэчы Паспалітай у 1638, 1643, 1647 і 1652 стварыць спец. камісію і выдзеліць сродкі на аднаўленне, рэстаўрацыю і догляд муроў у Смаленску і інш. замках усх. ваяводстваў, гэта так і не было зроблена. У Магілёве некалькі гадоў будавалі новую бастыённую сістэму ўмацаванняў горада, але шмат якія брамы так і не былі закончаны. Зруйнаваныя былі муры *Аршанскага замка*, не лепшым было становішча і іншых невял. замкаў. Іх паспешлівы рамонт пачаўся напярэдадні вайны. Відаць, сваю дэмабілізуючую ролю адыграла вера ў непарушнасць *Палянаўскага міру 1634*, заключанага на «вечныя часы». Былі сярод парубежных замкаў і такія, дзе ўмацаванні напярэдадні вайны былі ў спраўным стане (Гомельскі, Быхаўскі, Шклоўскі, Мсціслаўскі, Крычаўскі, Полацкі замкі). У сярэдзіне чэрвеня да г. Краснага (Смаленшчына) падышла і стала табарам конная армія Радзівіла колькасцю да 15 тыс. шабель. У большасць парубежных замкаў былі ўведзены невял. атрады наёмных войск з немцаў, венграў, датчан, палякаў, татар і інш. На пачатку ваен. дзеянняў армія ВКЛ налічвала каля 20 тыс. чал. (без уліку гарнізонаў замкаў).

Вайна пачалася 20.5.1654. Галоўным аб'ектам удару сталі Беларусь і Смаленшчына ў басейнах рэк Дняпро і Зах. Дзвіна. З ПдЗ на дапамогу рус. арміям рухалася северскае запарожскае войска ў складзе 20 тыс. чал., у якое ўваходзілі Нежынскі, Чарнігаўскі і Стародубскі палкі на чале з наказным атаманам Залатарэнкам (швагер Хмяльніцкага). Казакі дзейнічалі ў Бел. Падняпроўі і Пасожжы ўверх па Дняпры і Сажы, перпендыкулярна руху войск Трубяцкога, у напрамку Гомель—Прапойск—Стары Быхаў—Магілёў. Паводле ўказання Хмяльніцкага яны павінны былі падпарадкоўвацца вярхоўнаму рус. камандаванню. Айчынная гістарыяграфія паказвала вайну Расіі з Рэччу Паспалітай як вайну дзеля вызвалення беларусаў ад «польска-літоўскага заваявання». Але дакументы неабвержна сведчаць, што пад назвай «літоўскія людзі», «польска-літоўскія гарнізоны» і «польска-літоўскія войскі» фактычна выступала карэннае этнічнае бел. насельніцтва, якое абараняла гарады і замкі, удзельнічала ў бітвах, гінула і трапляла ў палон. Шматлікія «росписи литовских полоняников» змяшчаюць толькі бел. прозвішчы і імёны. Ніякіх этнічных літоўцаў у іх не было, а палякаў трапляліся адзінкі.

1 чэрвеня цэнтр. рус. групоўка ўзяла г. Белая, 3 чэрв. здаўся г. Дарагабуж. Шляхта з гэтых гарадоў уцякла ў Смаленск. З 25 чэрв. пачалася аблога Смаленскага крамля, якая працягвалася да 23 верасня. Паводле інвентара Смаленскага замка-крамля за 1654, у горадзе было 5 гармат, запасы пораху, волава, ядзер, халоднай зброі і даспехаў. Сцены замка месцамі мелі вял. праломы або былі да зямлі разбураны, таму патрабавалі сур'ёзнага рамонту, на земляным вале на асобных участках не хапала драўлянай агароджы. Паводле рус. разведданых, у Смаленску было 2250 чал. гарнізона («воинских людей») і больш за 6 тыс. жыхароў, сярод іх 1500 мяшчан і каля 4 тыс. шляхецкіх слуг. У абароне замка і адбіцці атак рус. войск удзельнічалі рамеснікі, сяляне навакольных вёсак, навучэнцы рэліг. навуч. устаноў, служкі, многія з якіх нават не ўмелі страляць. У пач. ліпеня Смаленск быў поўнасцю блакіраваны рус. войскам, якое не адважвалася штурмаваць горад, бо з тылу яму процістаялі сілы Радзівіла, што размяшчаліся паміж Оршай і Красным. Адзін з яго атрадаў на чале з падпалк. Ганскім (1,5 тыс. чал.) ноччу атакаваў лагер Адоеўскага і за 2 гадзіны бою нанёс рускім сур'ёзныя страты. Гэты поспех натхніў абаронцаў горада, тым больш, што цар накіраваў супраць войск Радзівіла атрад пад камандаваннем Чаркаскага і гэтым аслабіў смаленскую групоўку. Аблога Смаленска праводзілася пры ўдзеле замежных афіцэраў, якія арганізоўвалі падкопы і падводку мін пад сцены крамля, вялі інтэнсіўны абстрэл пазіцый абаронцаў, збіваючы з мушкетаў і гармат баявыя пляцоўкі на мурах і руйнуючы вежы. Горад абстрэльваўся таксама 180-фунтовымі гранатамі, якія знішчалі жылыя і гасп. пабудовы смалян. Выкарыстоўвалі таксама атрутныя хімічныя ядры, ад якіх многія параненыя гараджане памерлі. У сваю чаргу абаронцы Смаленска пад кіраўніцтвам інжынера Баноліуса вялі сустрэчныя контрміны. Ваявода Абуховіч арганізоўваў раптоўныя вылазкі і атакі на рус. ратнікаў, праводзіўся артыл. абстрэл царскіх батарэй. 29 ліп. рус. войскі правялі масіраваны абстрэл з гармат і ручной зброі, такія абстрэлы кругласутачна працягваліся да 7 жніўня. Ноччу 26 жн. царскія войскі, падрыхтаваўшы 4 тыс. лесвіц, пачалі штурм умацаванняў, які адбівала ўсё насельніцтва горада. На праціўніка пускалі бярвёны, абрушвалі камяні і цэглу, жанчыны лілі зверху кіпень і сыпалі попел, а калі скончыўся порах, на штурмуючых сталі кідаць вуллі з пчоламі, якія давяршылі справу. Штурм працягваўся 7 гадзін. Рус. войскам удалося захапіць адну вежу і ўсцягнуць туды 2 гарматы, аднак абаронцы абстралялі яе з гармат, порах, які быў унутры вежы, узарваўся і ўсе, хто быў там, загінулі. Жорсткі бой адбываўся на земляным вале, выход яго вырашылі бярдышнікі. Яны на чале са смаленскім падсудкам праз патаемны ход выйшлі ў тыл атакуючаму праціўніку і знішчылі яго. У ходзе штурму паводле польск. дакументаў рускія страцілі 7 тыс. чал. забітымі і 15 тыс. параненымі, вял. страты былі і ў абаронцаў. Псіхалагічная сітуацыя ў горадзе была вельмі складаная. Надзеі на дэблакіроўку Смаленска войскамі Радзівіла зніклі пасля яго паражэння каля в. Шапялевічы (цяпер Круглянскі р-н). У гэтым баі загінула каля 1 тыс. воінаў ВКЛ і шмат рус. ратнікаў, у т. л. князь Куракін, а таксама дваранскія і баярскія дзеці. Сам Радзівіл быў паранены, страціў увесь абоз і адступіў да Смалявіч і Ігумена з 4 тыс. салдат. Ва ўмовах голаду смаленскія мяшчане і казакі вырашылі падтрымаць шляхту і духавенства і падпісаць з царскімі ваяводамі ганаровыя ўмовы здачы горада. 2 вер. такі дакумент за подпісамі ваяводы Абуховіча і палк. Корфа дастаўлены ў Стаўку цара, 5 вер. цар прызначыў для перагавораў баяр І. Б. Міласлаўскага, С. Ю. Міласлаўскага, А. С. Мацвеева і М. Ліхачова. У час перагавораў дамовіліся, што Абуховіч, Корф і ўсе, хто жадаюць, могуць пакінуць горад. 23 вер. смаленскі ваявода з гарнізонам і шляхтай выйшлі з горада, паклалі перад царскім войскам сцягі і накіраваліся да Оршы. Большасць мясцовых жыхароў («літоўскія людзі») засталася ў горадзе. Смаленск ператварыўся ў адм. і ваен. цэнтр царскай арміі, у ім збіраліся харчовыя запасы, зброя і рыштунак воінаў, канцэнтравалася войска.

2-я рус. армейская групоўка пад камандаваннем Шарамецева была накіравана на Віцебскае і Полацкае ваяводствы, пагражала Ліфляндскаму і Віленскаму ваяводствам. Гэтым Рус. дзяржава страхавалася ад нечаканасцей з боку Швецыі, якая магла пачаць наступленне са шведскай Лівоніі. Царскі ўрад надаваў захопу Полацка вял. значэнне, бо горад з'яўляўся буйным адм., гандл. і рэліг. цэнтрам. Здзейсніць свае планы ваявода Шарамецеў вырашыў пасля таго, калі разведка паведаміла, што багатыя палачане сталі адпраўляць сем'і са скарбам у Лівонію, Каралевец, Курляндыю і Вільню. 17 чэрв. Шарамецеў з войскамі падышоў да горада і «у литовских людей перевоз и слободы и дороги к Витепску и к Вильне заставил и в Полоцке польских и литовских людей осадил и к городу всеми ратными людьми и конными и пешими приступили и над городом государевым делом промышляли и городские же люди с государевыми ратными людьми бились и из наряду стреляли». Дакументы сведчаць, што рус. войскі «... промышляли и с литовскими людьми бились день целый». Аказалася, што Полацк не такі ўжо і бязлюдны, гэта прымусіла рус. ваяводу прытрымлівацца царскай установкі: зберагаць людзей, здабываючы горад «зажогом и уговором». Паміж палачанамі і ваяводам І. Т. Вярыгіным пачаліся перагаворы, якія з боку гараджан вялі «начальныя люди пан Дегиль да пан Кисаровский с товарыщы». 30 чэрв. Шарамецеў яшчэ раз паслаў Вярыгіна «сговаривать» палачан. Нарэшце гараджане на вяроўцы спусцілі з вежы ўмовы ганаровай здачы — «пункты», якія былі прыняты, і дэлегацыя мяшчан выехала ў стан ваяводы. Паводле сведчання адпіскі цару, «... полские и литовские люди, езовиты и шляхта и мещаня, видя промысел, государю добили челом и город здали и учинилися под государевою высокою рукою». У По-

лацк уступіла рус. войска, і сам Шарамецеў з баярамі ўгаворваў палачан застацца ў горадзе, што яны і зрабілі (выехалі толькі 7 чал.). Аднак праз некалькі дзён амаль усе жыхары горада былі ўзяты ў палон і адпраўлены ў Расію. 6 жн. Вярыгін да хроснага цалавання «привел... шляхты и мещан, и всяких чинов людей 314 человек». Гэта яшчэ раз пацвердзіла, што ніякія «пункты» ганаровай здачы не ратавалі бел. «осадных сидельцев» ад палону, і паслужыла сігналам іншым гарадам не верыць царскім абяцанням і змагацца за вольнасць да канца. Рыхтуючыся да аблогі Віцебска, армія Шарамецева пачала замацоўвацца ў Падзвінні. З 25 чэрв. да канца лістапада 3 атрады рус. войск пад кіраўніцтвам сына Шарамецева—Мацвея — з баямі занялі Дзісну, Друю, Глыбокае, Іказнь, Азярышча, Усвяты, Веліж, Невель, Сушу і Сураж. *Дзісенскі замак* быў захоплены ў выніку здрады бурмістра, які ўпотай адчыніў браму замка. Абарона Азярышча працягвалася больш за месяц, але пасля жорсткіх баёў замак быў узяты рус. войскамі У Ліфляндыі ваен. дзеянні яшчэ не вяліся.

*Віцебскі Верхні замак, Віцебскі Ніжні замак* і *Віцебскі Узгорскі замак* кантралявалі верхняе цячэнне Зах. Дзвіны — стратэгічны плацдарм для разгортвання наступлення ў глыб Беларусі і на сталіцу ВКЛ — г. Вільню. У сярэдзіне жн. 1654 пад Віцебск прыбыло войска Шарамецева, а неўзабаве падаспелі ўкр. казакі на чале з В. Залатарэнкам. У горадзе канчаліся прыгатаванні да абароны — спешна разбіраліся жылыя дамы і гасп. пабудовы, будынкі кальвінскага збору, дом пастара, вучылішча кальвіністаў і багадзельні. Мабілізуючую ролю адыгрывалі і ідэалаг. лозунгі царскай улады, якая выступала супраць касцелаў, уніятаў і яўрэяў. Расправа рус. войск у 1563 у Полацку над бернардзінцамі і яўрэямі з ведама цара Івана IV Грознага магла паўтарыцца, таму прадстаўнікі ўсіх канфесій заклікалі веруючых мабілізаваць на патрэбы абароны ўсе сілы і сродкі. Яўрэйская абшчына Віцебска пабудавала 46 сажняў астрога, адрамантавала браму, зрабіла падземны ход да Зах. Дзвіны, паставіла на праслах сцен замкаў некалькі дзесяткаў катлоў з вадой для тушэння пажараў, утрымлівала на свае сродкі цэлую сотню драгунаў. У крытычныя перыяды 14-тыднёвай абароны гараджане разбіралі свае дамы і гасп. будынкі на рамонт разбураных участкаў сцен і вежаў. Руска-ўкр. войску (20 тыс. чал.) процістаяла больш за 10 тыс. чал. абаронцаў горада, з іх каля 1 тыс. чал коннай шляхты, мяшчанскае апалчэнне, аб'яднанае ў 8 «соцень»: сотня Вышняга горада [Падзвінская, Узгорская, Зарэцкая («Зарачанская»)], сотня мяшаная — Зарэцкая і Верхняга горада, сотня Зарэцкай Русі, 42 пушкары і інш., усяго ўзброеных мяшчан было 4—5 тыс. чал. Большую частку асаджаных складалі сяляне Віцебскага пав., паводле рус. дакументаў, «пашенные мужики». Ігнаруючы грозны універсал Радзівіла, значная частка шляхты «прочь отъехала» і ўдзелу ў абароне горада не брала. Насельніцтва асаджанага горада адмовілася ад пасіўнага сядзення і ў канцы жніўня — пач. верасня рабіла «выласки из города частые», якія падтрымлівала мяшчанска-шляхецкая кавалерыя і гар. артылерыя. 27 жн. цар загадаў Шарамецеву «над Витепском промышлять подкопом и зажогом и зговором и разными военными промыслы, а приступать не велено, чтоб в служилых людях истери не учинить». Па патрабаванні ваяводы былі прысланы «великая пищаль верховая «Скворец» с 10 огненными, 10 нарядными ядрами и 16 гранатами» і сценабітная гармата, аднак у канцы верасня штурм горада рус. ратнікамі скончыўся няўдачай. Не дапамаглі і прыведзеныя сюды ў кастр. 1654 два палкі «иноземного строя» пад камандаваннем палк. Я. Флека і А. Гамалтона. 24.10.1654 цар у грамаце Шарамецеву рэкамендаваў «над Витепском промышлять всякими обычаи, и будет в Витепске мужики застояцца, нам, великаму государю, не добьют челом, а города Витепска не здадут, а вам будет нашими ратными людьми от Витепска отступать, и вы б послали в Витепский уезд и весь выжечь без остатку». Сяляне павета, якія складалі аснову войска, што абараняла віцебскія замкі, падвяргаліся карным акцыям рус. войск. У асаджаным горадзе лютаваў голад, ад якога «нямала людзей паспалітых і чэрні памерла». Шмат людзей загінула ў час адбіцця штурмаў, вылазак і артыл. абстрэлу, адчувалася вострая нястача пораху. Каб адцягнуць час, асаджаныя вялі доўгія і безвыніковыя перагаворы аб здачы горада. У сярэдзіне лістапада пасля жорсткіх бітваў і штурму руска-ўкр. войскі захапілі Ніжні і Узгорскі замкі, 22 ліст. «от безмерного приступу» здаўся Верхні мураваны замак. Пачалася расправа над гараджанамі, у выніку якой пераможцы нямала «шляхты, мяшчан, паспольства, жаўнерства, драгунаў, жанок і малых дзяцей, старых і старух, што былі ў багадзельнях, без усялякай міласэрнасці высеклі і выбілі». Частка ўцалелай шляхты была саслана за непакорлівасць у Казань, 144 шляхціцы на чале з ротмістрам Ф. Сівіцкім сталі служыць цару; 1336 чал. мяшчан былі прыпісаны да 8 гар. «сотняў». Многія абаронцы трапілі ў палон і былі раздадзены баярам. Упарта абараняўся Мсціслаў — цэнтр другога ўсх.-бел. ваяводства. Аблога *Мсціслаўскага замка* працягвалася з 18 да 22.7.1654, пасля чаго войскі Трубяцкога і яго ваявод Куракіна, Далгарукага і Пажарскага колькасцю 18 200 чал. захапілі і спалілі горад. У замку, ратуючыся ад вайны, сабраліся шляхта, салдаты, уцалелыя мяшчане, сяляне і інш. паветовыя людзі Пасля магутнага штурму рус. войскі ўварваліся ў замак і «народ розны шляхецкі мяшчан і яўрэяў таксама ўсе паспольства ў пень высеклі». У час гэтай акцыі, якая ўвайшла ў гісторыю як «Трубяцкая разня», паводле рус. дакументаў, загінула 15 тыс. чал Частка жыхароў (пасадскі люд) прысягнула цару, але гэта была «крывая» прысяга, якая неаднойчы ў час вайны парушалася. Пасля ўзяцця Полацка і Мсціслава цар распарадзіўся ўнесці ў свой тытул словы «князь полацкі» і «князь мсціслаўскі» Такі ж цяжкі лес напаткаў і Гомель, які ў пачатку чэрв. 1654 асадзіла 20-тысячнае войска І Залатарэнкі. На той час гарнізон *Гомельскага замка* складаўся з 2 тыс. чал. нямецкай і венгерскай наемнай пяхоты і роты татар, іх узначальвалі князі Жыжэмскі і Бабраўніцкі

Залатарэнка, паведамляючы цару аб

Да арт **Вайна Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67.** Смаленск у 1-й пал 17 ст 3 гравюры.

сваім наступленні, пісаў, што «Гомель ... есть всем местам граничным литовским головою. Место велми оборонное, людей служилых немало, снарядов и пороху много». Таксама добра быў умацаваны і замак. Войскі Залатарэнкі, пераадолеўшы лінію гар. умацаванняў, пачалі аблогу замка — «промышляти всеми промыслы ратными». Да 11 ліп. казакі 4 разы беспасняхова штурмавалі замак, абаронцы ў сваю чаргу рабілі частыя вылазкі, у час адной з іх быў забіты чарнігаўскі казацкі палк. С. Пабадайла. Аблога замка зацягнулася больш як на паўтара месяца: казакі вырашылі прымусіць гарнізон здацца «голодом и безводьем». Неўзабаве пачаўся голад, аднак вада была, яе бралі з Сажа па падземным ходзе, пракапаным з замка. Разумеючы, што абаронцы сваёй упартасцю «усей Литве и войскам их сердца и смелости додают», казакі звярнуліся да гараджан ад імя цара і Хмяльніцкага з прапановай здацца, на што тыя «гордо и сурово ... отписали». Не давалі вынікаў і артыл. абстрэлы, хоць яны выклікалі вял. пажары, толькі ўзарваўшы патаемны ход да вады, казакі вымусілі асаджаных 13 жн. здацца. Аднак атрад наёмнікаў на чале з князямі Жыжэмскім і Бабраўніцкім змог адысці ў Стары Быхаў. Залатарэнка ўсіх мяшчан «сделал вязнями и отвез к государю». Захоп Гомеля адчыніў казацкай старшыне шлях да далучэння пaўд.-ўсх. Беларусі да Украіны, пашырэння тэр. Нежынскага і Чарнігаўскага казацкіх палкоў. Тут планавалася ўвесці сваё палкавое адм.-тэрытарыяльнае кіраванне, зямля і сяляне адпаведна раздаваліся пераможцам, насельніцтва рэгіёна трапляла пад феад.-прыгонніцкі прыгнёт укр. казацкай старшыны. Большасць жыхароў гарадоў, што абаранялі замкі, звычайна вынішчалася казакамі, астатніх адпраўлялі цару. Жорсткасць і патрабаванні да асаджаных здавацца на імя І. Залатарэнкі выклікалі вял. супраціўленне гараджан, і казакам даводзілася браць амаль кожны горад «пад меч» пасля працяглай аблогі. Многія гарады (Свіслач, Чачэрск, Рэчыца, Стрэшын, Жлобін) пасля нядоўгага супраціўлення наказны атаман «вырубил и спалил». Асечка ў І. Залатарэнкі здарылася з *Быхаўскім замкам,* які ён асаджаў з жн. 1654 адзінаццаць месяцаў і ад якога мусіў адступіць. Адной з прычын адмовы быхаўцаў здацца казакам была іх боязь «перед Золотаренком», другая — звесткі пра лёс гараджан з захопленых гарадоў, якіх «неволят, грабят и в полон емлют и до Москвы отвозят и те де все города ныне разорены и опустошены и быховцы де, слыша то, все на том и порешили, лутше де им в домех своих хотя помереть, нежели в неволю из воли самим себя отдавать». Гарады, якія мелі добрыя ўмацаванні, без бою не здаваліся. З чэрвеня да канца верасня адбівалі штурмы царскіх войск абаронцы *Крычаўскага замка.* Шарамецеў і Шчарбакоў паведамлялі цару: «Город Кричев крепок, стоит по осыпи высокой, и ров глубок, и въезд и выезд один, а пищалей затинный и винтовочных в городе много». Асаджаныя адмовіліся здавацца рус. войскам і паддаліся толькі ўгаворванням шляхціца К. *Паклонскага,* які перайшоў на бок царскіх войск. 20—31 жн. працягвалася аблога «зажогом и приступом» Шклова, які быў здадзены царскім войскам паводле рашэння магістрата. 4 жн. здаўся распрапагандаваны манахамі Куцеінскага манастыра дрэнна ўмацаваны Копысь. Сярод гарадоў, што без асаблівага супраціўлення здаліся рус. войскам, быў буйнейшы горад Беларусі Магілёў. У жн. 1654 узброеныя гараджане яшчэ рабілі вылазкі супраць рус. атрада М. Ваейкава і атрада войск Шарамецева, але ў цэлым горад не быў гатовы да абароны. Новая бастыённая лінія фартыфікацыі і гар. брамы стаялі недабудаванымі. Жыхары пад уплывам угавораў манахаў з Куцеінскага манастыра раскалоліся на прарускую і прапольскую групоўкі. Рада мяшчан, каб пазбегнуць непатрэбных людскіх страт, вырашыла прысягнуць цару і працягваць ваенна-фартыфікацыйныя работы. Праруская групоўка мяшчан колькаснай перавагі не мела. Жорсткія баі са жніўня разгарнуліся за Дуброўну, блакіраваную атрадам Куракіна. Гэта быў стратэгічны пункт, які ўплываў на бяспеку Смаленска і ўсяго левабярэжжа Дняпра і адначасова кантраляваў рух па рацэ ўніз і ўверх. Асаджаныя неаднаразова рабілі смелыя конныя і пешыя вылазкі. У пач. кастрычніка сюды былі сцягнуты буйныя сілы рус. войск. Царскія ваяводы, чаргуючы артыл. абстрэлы са штурмамі, пасылалі на перагаворы праваслаўнага святара, ксяндза, яўрэйскага рабіна, копыскіх мяшчан, якія агітавалі здацца. Каб пазбегнуць здрады, дубровенцы засыпалі браму замка зямлёй, пачалі глухую абарону і адбівалі штурм за штурмам. Вял. колькасць цывільнага насельніцтва ў горадзе, у т. л. жанчыны і дзеці, цяжкае становішча з харчаваннем, а потым і голад вымусілі дубровенскага гарадніча Храпавіцкага пачаць перагаворы з ваяводамі Чаркаскім і Трубяцкім. 12 кастр. «дубровенские литовские люди... добили челом и город здали и ворота отсыпали». Раззлаваны ўпартай абаронай цар у асобным указе загадаў Чаркаскаму: «как город Дубровна здастца, и ...шляхты лучше людей выбрав, прислав к... государю, а достальную шляхту велеть посылать в Тулу, а мещан и уездных людей раздать ратным людям семьями, а город Дубровну выжечь». 17 кастр. горад быў спалены, а ўсё насельніцтва выводзілася ў рус. землі. Восенню 1654 шляхта ВКЛ на пав. сейміках вырашыла выстаўляць з кожнага павета для паспалітага рушэння 4 харугвы: гусарскую, рэйтарскую, казацкую і пешую, пачалося фарміраванне драгунскіх і панцырных харугваў. Актыўна стваралі свае атрады Б. Радзівіл, П. Сапега, князі Лукомскі, Лазоўскі, Лісоўскі і інш., сілы ВКЛ былі яшчэ значныя. Пасля заваявання Дуброўны і Віцебска асноўныя мэты кампаніі 1654 для рус. ўрада былі дасягнуты. Частка войск адпускалася да вясны па дамах.

У выніку ў 2-й пал. 1654 на тэрыторыі ваен. дзеянняў ад Невеля да Гомеля па лініі Дняпро—Зах. Дзвіна рус. войскі занялі значную бел. тэрыторыю і 33 гарады. Царскія ўлады разглядалі Беларусь як сваю вотчыну і ўстанавілі тут акупацыйны рэжым, які пачаў душыць на занятых землях сялянскі рух. Сяляне паступова трацілі свае царысцкія ілюзіі, убачыўшы, што рус. ўрад бярэ пад сваю абарону бел. шляхту, якая прысягнула цару. Рус. ўлады яе запэўнівалі, што яны за тое, каб шляхта жыла ў спакоі і багацці, каб не нішчыліся яе маёнткі і «чтоб мужики из них не бегали и не разорили». Царскі ўрад таксама не скупіўся на абяцаніні праваслаўнаму духавенству і мяшчанству, гарантуючы ім розныя льготы і прывілеі. Але нічога не было сказана аб прадстаўленні якіх-небудзь правоў сялянам. Рус. ўрад разглядаў землі Смаленшчыны і Беларусі як уласнасць Рус. дзяржавы, тут ніхто не мог валодаць зямлёй без пацвярджэння сваіх ранейшых правоў і прывілеяў рус. царом. Каралеўскія ўладанні і касцельныя землі адпісваліся толькі на цара. Калі рус. войскі цярпелі чарговае паражэнне, шляхта масава зноў пераходзіла на бок караля, але пакуль што яна імкнулася прысвоіць чужую зямлю і чужых сялян. На занятых тэрыторыях акупацыйныя ўлады праводзілі ў дачыненні да канфесій асобную палітыку. Уніяцкія цэрквы, касцёлы і кляштары забараняліся, каталіцкія навуч. ўстановы закрываліся, іх зямельныя ўладанні канфіскоўваліся, аддаваліся праваслаўным манастырам і цэрквам або адпісваліся на цара. Праваслаўная царква, нягледзячы на сваю прамаскоўскую арыентацыю, новых заваяваных земляў амаль не атрымала, а мясц. духавенству ўвогуле не давяралі. Дакументы сведчаць, што на акупіраваную тэр. Беларусі і Смаленшчыну з Рус. дзяржавы прысылалася на пэўны тэрмін па «череде» разам з ваяводамі і праваслаўнае духавенства. Увосень 1654 па загаду патрыярха Нікана ў Оршы быў ліквідаваны цэнтр бел. кнігадрукавання пры Куцеінскім манастыры. Уся друкарня (шрыфты, іншае абсталяванне, вял. колькасць выданняў, часткова не пераплеценых) была вывезена ў Іверскі манастыр пад Ноўгарад, адтуль у 1655 — у Васкрасенскі манастыр пад Масквой, у 1676 — у Маскоўскі друкарскі двор; назад у Оршу яна не вярнулася. На заваяваных Расіяй землях стварылася выключна складаная сітуацыя. Сяляне асабліва цярпелі ад ваен. дзеянняў: вытоптваліся пасевы, паліліся жылыя і гасп. будынкі. Рус. дваране і дзеці баярскія захоплівалі сялян у палон, адпраўлялі іх у якасці дармавой рабочай сілы ў свае маёнткі ў глыб Расіі. У царскую канцылярыю ішоў паток скаргаў ад сялян і шляхты, што прысягнула цару, з патрабаваннем спыніць рабаванні рус. ратнымі людзьмі, вярнуць сялян дадому. Рускае камандаванне само часта ўжывала рознага роду рэквізіцыі і канфіскацыі, забіраючы ў сялян коней і вупраж, прадуктовыя пры-

пасы і інш., а саміх сялян гвалтоўна прыцягвала да ваенна-будаўнічых і інш павіннасцей. Рус. ўлады прымушалі іх прадаваць хлеб па нізкіх цэнах, а расплачваліся рус. грашамі, якія моцна ўпалі ў цане. Рус служылым людзям дазвалялася браць у палон мяшчан і сялян у асаджаных, а потым захопленых гарадах, пазней палонных прадавалі па цане ад 3 да 6 рублеў за «галаву». Часта захоплівалі і адпраўлялі ў Расію нават сем'і сялян, якія прысягнулі цару Так, у вер 1654 са скаргай да цара звярнуліся сяляне весак Любавіцкага стана Аршанскага пав. «Как мы, сироты твои, прослышали твое государево пришествие, и мы, сироты твои, тебе, государю, с хлебом и солью били челом. А ныне у нас, сирот твоих, женишка и детишка, все без вести распропали, потому что побрали твои государевы люди и развезли по разным полкам, и к тебе государю под Смоленск, а животишка, статки все у нас и скотину и хлеб поимали, и домишка пожгли, скитаемся по лесам нагие и босые,сидим на попелище, с холоду и голоду вконец погибли и разорены до основания». І гэта быў толькі пачатак шматгадовай вайны. З гарадоў Беларусі вывозіліся ў палон самыя кваліфікаваныя рамеснікі разнастайных спецыяльнасцей — збройнікі, шабельнікі, рэзчыкі па дрэве і косці, парахоўшчыкі, слесары, токары, сярэбранікі, замочнікі, ствольнікі, залатары, гадзіншчыкі, пісталетнікі, жывапісцы-іканапісцы, друкары, кафельнікі і інш З храмаў вывозілі ў Расію каштоўныя абразы, царкоўныя кнігі і інш

Грамадска-паліт. барацьба абвастралася ў сувязі з тым, што многія шляхціцы, якія прысягнулі цару, і гар людзі, што ўступілі ў царскае войска, атрымалі ўладанні тых шляхціцаў, якія цару не прысягалі Новыя гаспадары разумелі, што атрымалі зямлю часова, таму бязлітасна эксплуатавалі і рабавалі сялян, ускладняючы і без таго выбуховае становішча Такая палітыка рус акупацыйных улад урэшце прывяла да складвання варожых адносін насельніцтва Беларусі на вёсцы і ў горадзе. У выніку ўжо ў ліп.—жн. 1654 на Смаленшчыне, Мсціслаўшчыне, Полаччыне, Магілеўшчыне, Віцебшчыне сталі ўзнікаць сялянскія атрады самаабароны — першыя вядомыя ў гісторыі Беларусі партыз. атрады. Іх асн. задача — перашкодзіць рус. дваранам і дзецям баярскім захопліваць і вывозіць у палон насельніцтва, рабаваць і разбураць населеныя пункты. Атрады ўзнікалі і змагаліся ў зоне ваен. дзеянняў у толькі што акупіраваных рус. войскамі раенах. Яны налічвалі ад некалькіх соцень да 3,5 тыс. чал., былі ўзброены халоднай і агнястрэльнай зброяй, мелі свае сцягі і барабаны (часткова зброя і амуніцыя дастаўлялася спец. групамі ад Радзівіла). Партызаны (у рус. тэрміналогіі 17 ст.— «шиши») не толькі нападалі на рус. войскі, але грамілі вёскі і маёнткі шляхты, якая прысягнула цару Партызан падтрымлівалі многія з праваслаўных святароў, таму, відаць, царскі ўрад прысылаў на Беларусь сваіх надзейных царкоўнікаў. Адным з першых быў створаны атрад «шишевского полковника» Якіма Патапава, які дзейнічаў у Мсціслаўскім пав. Паводле дакументаў, на другі дзень пасля падыходу рус войск да Мсціслава 18.7 1654 Патапаў «собрався со многими людьми», напаў на рус ратных людзей і нанёс ім вял. страты. Вядома, што яшчэ ў час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1632—34*, калі пад Смаленскам стаяў рус. ваявода баярын М Б. Шэйн, Патапаў быў «с шишами полковником», нападаў на рус войскі і быў паранены. Атрад Патапава меў харугву, прысланую Радзівілам, пад якой ваявала больш за 3 тыс чал. сялян і 15 шляхціцаў Уступленне на Беларусь укр казакоў выклікала неадназначную рэакцыю ў насельніцтва. Частка сялян і гар. беднаты далучылася да іх і «паказачылася», спадзеючыся такім чынам пазбавіцца прыгону, беднасці, адпомсціць шляхце, паправіць свае эканам. стаиовішча. Сюды сцякаліся і збеглыя рус людзі Улетку 1654 створаны бел. казацкі полк на чале з мясц магілеўскім шляхціцам К. Паклонскім. Полк паводле складу быў вельмі неаднародны, у ім, акрамя сялян і гараджан, было шмат дробнамаянтковай шляхты Магілеўшчыны. Магілёўскі пав., паводле ўкр. звычаяў, быў пераўтвораны ў палкавую адм.-тэрытарыяльную адзінку. Ён падзяляўся на сотні, якімі кіравалі палкавыя сотнікі Яны забяспечвалі фарміраванне і харчаванне сваіх падраздзяленняў Сотнікамі прызначаліся звычайна шляхціцы, блізкія да Паклонскага Бел палку былі прыдадзены яшчэ і Крычаўскі пав На гэтых тэрыторыях Паклонскі спрабаваў стварыць падобную Украіне аўтаномную адзінку ў складзе Рус дзяржавы, якой бы кіравала шляхта з яе «залатой вольнасцю». Акупац. ўлады спачатку прыхільна ставіліся да задумы Паклонскага. Яны ўмела працістаўлялі яго ваен. сілу і адм -тэрытарыяльную структуру дзеянням укр. казацкай старшыны на чале з І. Залатарэнкам, што выконвала свае тэрытарыяльныя задумы і падпарадкоўвала сабе паўд.-ўсх. Беларусь Аднак ад узаемнага саперніцтва моцна цярпелі сяляне Магілеўшчыны, якіх казакі Залатарэнкі рабавалі, забіраючы грошы, хлеб, коней і жывелу. У сваю чаргу сяляне рабавалі шляхецкія маёнткі. Яны паступова перасталі слухацца Паклонскага і пакідалі яго полк Паколькі Паклонскі не мог прымусіць сялян падпарадкоўвацца сваім уладальнікам і вярнуць нарабаваную маёмасць, то і шляхта пачала адварочвацца ад яго Царскія ўлады не задаволілі яго просьбаў аб зямельных падараваннях для сваіх прыхільнікаў і для сябе асабіста У сувязі з наступленнем на Магілеў і Падняпроўе значных ваен сіл ВКЛ на чале з Радзівілам Паклонскі стаў рыхтаваць здраду цару, тым больш, што ваен поспехаў яго полк не дасягнуў Да таго ж 6.10.1654 вял атрад пад камандаваннем В. Бушака каля Бялыніч быў разбіты 6 харугвамі войска ВКЛ. Здрада адбылася ў той час, калі ваен сітуацыя на Беларусі значна ўскладнілася Увосень 1654 наступленне рус войск спынілася, царскія ваяводы імкнуліся замацавацца на занятай тэрыторыі і захапіць тыя гарады, што яшчэ змагаліся (Віцебск, Быхаў). Частка войск выехала ў Расію, а эпідэмія чумы ў цэнтр. раенах Рус дзяржавы ўскладняла папаўненне войск служылымі людзьмі У гэтых умовах войскі ВКЛ на чале з Радзівілам і Гансеўскім у вер. 1654 пачалі ваен. дзеянні на правабярэжжы Бярэзіны пад Бабруйскам і Свіслаччу Узнікла пагроза войску Залатарэнкі пад Быхавам (Старым Быхавам), і ен мусіў адступіць да Новага Быхава (аблога Старога Быхава была часова знята 31.12.1654). Паколькі тут частка сялян прысягнула цару і паводле Статута ВКЛ 1588 яны лічыліся здраднікамі каралю і дзяржаве, то іх вёскі ў раене Клічава былі разрабаваны, а жыхары знішчаны Войскі ВКЛ асадзілі Новы Быхаў, але ў гэты час Паклонскі паведаміў, што ў Магілеве невялікія рус. сілы і што ен згодзен здаць Радзівілу горад. 2.2.1655 войска ВКЛ падышло да Магілева, дзе, акрамя мясц. жыхароў, было 3500 рус. ратных людзей і 4 тыс казакоў Паклонскага. У атрадзе Радзівіла было 12 тыс. чал. На наступны дзень магіляўчанам прапанавалі здацца, але яны адмовіліся, тады пачалася аблога У ноч на 6 лют Паклонскі з атрадам шляхты (400 чал.), які быццам выехаў на бой з непрыяцелем, адчыніў браму і ўпусціў войска ВКЛ у Лупалаўскую слабаду, дзе размяшчаліся казакі. Спроба Радзівіла ўварвацца ў Бліжні вал старога горада і ў *Магілеўскі замак* не мела поспеху

Да арт **Вайна Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67.** Панарама Рэчыцы З гравюры сярэдзіны 17 ст

Войскі ВКЛ працягвалі аблогу, правялі прыступы 12 лют., 8 сак. і 13.4.1655, 4 разы ўзрывалі падкопы пад валам замка, ад чаго ўтварыліся вялікія (да 18 сажняў у дыяметры) «вырвіны». Нягледзячы на тое, што Магілёў скаваў значную частку войск Радзівіла і Гансеўскага, група войск ВКЛ у час зімовага контрнаступлення заняла Копысь, Дуброўну, Оршу. Другая групоўка войск ВКЛ правяла некалькі наступальных аперацый у раёне Віцебск — Полацк — Дзісна — Невель. Гэтымі акцыямі рабілася спроба вярнуць страчаныя ў 2-й пал. 1654 тэрыторыі, распыліць рус. войска і перашкодзіць Расіі ў аказанні дапамогі сваім войскам на Украіне, дзе ў студз. 1655 пачалося наступленне польскай арміі. «Литовские люди объявились немалые» пад Віцебскам яшчэ ў снеж. 1654, яны рухаліся паабапал Зах. Дзвіны. Захоп Магілёва і Віцебска войскам ВКЛ даваў магчымасць двайнога ўдару на Смаленск і блакіравання рус. ваявод у Падзвінні. У студз. 1655 вял. атрад кн. Лукомскага спрабаваў прабіцца пад Віцебск, але быў разбіты. 24 студз. з 4 бакоў падступаўся да Зах. Дзвіны атрад палк. Лісоўскага, але таксама быў вымушаны адступіць. Ён чакаў падмацавання конніцай і пяхотай, пасля чаго наважваўся зрабіць рэйд пад Віцебск, а таксама на Таропец, Вял. Лукі і па «иным порубежным городам». У лют 1655 войскі ВКЛ бесперапынна дзейнічалі ў раёне Полацка і Дзісны. У ноч на 19 лют яны з 3 бакоў штурмавалі Віцебск «с полуночи жестоким приступом до часа дни». Штурм быў з вял. цяжкасцямі адбіты, але рус. гарнізон 2-ю палавіну лютага практычна быў асаджаны войскам ВКЛ, якое ў пач. сакавіка пагражала Невелю і падступала да Дзісны. Аднак страчаныя гарады Падзвіння вярнуць не ўдалося. Кантроль над раёнам Новы Быхаў — Быхаў (Стары Быхаў) — Магілёў даваў надзею Радзівілу і Гансеўскаму вярнуць страчаныя гарады ў вярхоўях Дняпра, пагражаць Крычаву, Мсціславу і Паўн. Украіне. Выпадак з Паклонскім падказваў магчымасць дамовіцца з казацкай старшынай. Аднак да лета 1655 здзейсніць свае планы гетманам не ўдалося, а летам пачалося новае наступленне рус. войск.

У час летняй кампаніі 1655 рус. камандаванне планавала ліквідаваць вынікі зімова-веснавых контрнаступленняў войск ВКЛ, вярнуць Дуброўну, Оршу, Копысь, узяць Стары Быхаў і адкінуць непрыяцеля за Бярэзіну. У паўн.-зах. частцы тэатра ваен. дзеянняў ставілася задача гарантаваць бяспеку гарадам Падзвіння, захапіць Дынабург і замацавацца ў Ліфляндскім ваяводстве. Гал. аб'ектам наступлення рус. войск у 1655 была сталіца ВКЛ — Вільня. Аперацыі на Беларусі і ў Літве меркавалася весці з Вял. Лук, Смаленска і Бранска. Паўн. армія Шарамецева наступала з Вял. Лук на Вільню і Віленскае ваяв. і прыкрывала Ноўгарад і Пскоў ад магчымага наступлення шведаў. Армія Чаркаскага наступала са Смаленска на паўн. частку Мінскага і з ПдУ на Віленскае ваяводствы (на Барысаў — Мінск — Вільню). З ёю ўзаемадзейнічалі казакі І. Залатарэнкі. Абедзве арміі павінны былі адначасова падысці да Вільні, частка войск застацца, а другая частка пайсці на Коўна — Гродна — Брэст. Армія Трубецкога дзейнічала ў паўд.-зах. частцы тэатра ваен. дзеянняў, яна наступала на сярэднюю частку Мінскага, Навагрудскае і ўсх. частку Брэсцкага ваяводстваў (Магілёў — Стары Быхаў — Слуцк — Навагрудак — Брэст). У выніку летняй кампаніі 1655 уся Беларусь ахоплівалася кальцом рус. войск, акрамя таго, у басейн р. Прыпяць меркавалася паслаць на рачных суднах рус. войскі з Кіева. Свае наступленне царскія войскі пачалі аблогай Дынабургскага замка 4.5.1655. У маі — чэрв. група войск ВКЛ на чале з кн. Лукомскім правяла баі ў полацка-віцебскім Падзвінні каля в. Арэхавічы, двойчы штурмавала Віцебск. Баючыся сутыкнуцца са Швецыяй, рускія вымушаны былі зняць аблогу з Дынабурга, які 9.6.1655 занялі шведы. Армія Шарамецева наступленне на Вільню яшчэ не пачала. Да незанятага ў 1654 Веліжа далучыліся *Езярышчанскі замак* і *Суражскі замак,* у якіх у студз. і лют. 1655 адбыліся перавароты. Мясц. жыхары, арганізаваўшы змову, часткова перабілі, часткова звязалі салдат і ваявод рус. гарнізонаў і перадалі іх Радзівілу Бесперапынна цярпелі аблогі Полацк, Віцебск і Дзісна. Мяцежныя гарады сталі базамі ваен. атрадаў ВКЛ. Толькі 27 мая войскі стольніка М В Шарамецева падышлі да Веліжа і пачалі аблогу. 17 чэрв. веліжскі дзяржаўца Я. Дамашэўскі з прычыны голаду вымушаны быў здаць горад. 20 чэрв. рус. атрадам, пасланым з Полацка і Дзісны, з боем давялося браць Друю, якую абараняў атрад палк. Касароўскага, але пасля жорсткага бою яны вымушаны былі адступіць. Гэтыя падзеі паўплывалі на настрoі ў занятых летам 1654 Невелі і Суражы, дзе сярод насельніцтва зафіксавана «шатость большая» і схільнасць да пераваротаў. У паўд.-зах. частцы тэатра ваен. дзеянняў, куды з Бранска накіроўвалася армія Трубяцкога для паходу на Слуцк — Навагрудак — Брэст, існавалі таксама праблемы. Па-ранейшаму нязломным для царскіх войск заставаўся Стары Быхаў, да ВКЛ зноў перайшлі Орша, Дуброўна, Копысь, неспакойна было ў Шклове. На абодвух берагах Бярэзіны ўсю зіму 1655 стаялі войскі Радзівіла. Каб ачысціць міжрэчча Дняпра і Бярэзіны і стварыць плацдарм для летняга наступлення арміі Трубяцкога, сюды былі кінуты казакі І. Залатарэнкі У канцы лют 1655 у «пад'ездах» пад Магілёў і глыбокіх рэйдах за Бярэзіну і Пціч яны дэзарганізоўвалі тылы войск Радзівіла і адцягвалі яго сілы ад Магілёва. У 1-й пал. сакавіка яны захапілі і спалілі Бабруйск, Каралеўскую Слабаду, Глуск і *Глускі замак.* У сярэдзіне мая 1655 некалькі тысяч казакоў зрабілі рэйд да Бярэзіны, але далей не пайшлі, бо ў Барысаве, Свіслачы і Мінску стаялі буйныя атрады войск ВКЛ. 2.7.1655 І. Залатарэнка дакладваў цару, што яго казакі штурмам здабылі Свіслач і непрыяцеляў «всех под меч пустили, а самое место и замок без остатку сожгли». Цэнтр. групоўка рус. войск пачала ліквідоўваць вынікі зімовага контрнаступлення Радзівіла і зноў захопліваць верхнедняпроўскія гарады і аднаўляць суднаходства па Дняпры, па якім дастаўлялася значная частка правіянту і боепрыпасаў Для вырашэння гэтых задач была вылучана групоўка войск на чале са стольнікам З. Ф. Лявонцьевым, якая ў канцы красавіка з баямі заняла Дуброўну, 11 мая — Оршу, 13 мая — Копысь і ачысціла фактычна ад войск ВКЛ левы бераг Дняпра. Войскі Радзівіла колькасцю 15 тыс. чал. адышлі і сталі лагерам у Талачыне. У чэрвені цэнтр. групоўка, куды прыбыў цар, правяла некалькі буйных аперацый у напрамку Барысаў — Мінск. У пач. чэрвеня 1655 яна стала аказваць падтрымку арміі Шарамецева ў паўн.-зах. частцы тэатра ваен. дзеянняў 7 чэрв. з-пад Копысі на дапамогу Віцебску з вял. групай войск пасланы стольнік І. Б. Міласлаўскі, 11 чэрв. ў в. Вежыцы на р. Дзісна ен разбіў атрад конных і пешых людзей на чале з Венжыкам — пляменнікам кн. Лукомскага. Ваявода А. І. Лабанаў-Растоўскі ў Полацкім пав. разбіў атрад кн. Лукомскага і 27 чэрв. заняў Лукомль. Гэтымі дзеяннямі была знята пагроза Віцебску з боку войск ВКЛ, і царскае войска атрымала магчымасць без перашкод рухацца ў глыб Беларусі 10 чэрв царскі ваявода кн. Ю. Барацінскі разбіў пад Барысавам атрад Паклонскага, аднак авалодаць *Барысаўскім замкам* пасля некалькіх штурмаў не здолеў. Між тым стратэгічная важнасць Барысава, які кантраляваў ход па Бярэзіне і рух па «Пасольскай дарозе», прымусілі царскую стаўку кінуць сюды атрад акольнічага Б. М. Хітраво з 5400 чал. (4159 чал. пяхоты і 1207 коннікаў). 19 чэрв. ен заняў і спаліў Барысаў, гарнізон якога адступіў за Бярэзіну, спаліўшы замак і знішчыўшы мост цераз раку. 24 чэрвеня рус. войска аднавіла мост і кінулася наўздагон за непрыяцелем, якога разбіла за Смалявічамі. Неўзабаве разгарнулася наступленне на Мінск. У той час умацаванні *Мінскага замка* былі ў дрэнным стане, і ен не мог стаць цэнтрам абароны горада, таму войскі ВКЛ вымушаны былі даць бой на адкрытым полі. Рус. арміі і казакам Залатарэнкі царскім загадам указвалася, каб яны ішлі «в Менск не мешкая нигде ничем и над литовскими людьми промышляли, сколько милосердный Бог помощи подаст, чтоб за помощью Божьей над литовскими людьми поиск учинить». 3 ліп. 1655 у жорсткім баі на подступах да Менска перамогі не дасягнуў ніводны бок, аднак войскі ВКЛ адступілі на З. Царскае войска і казакі, раз'юшаныя ўпартым супраціўленнем насельніцтва, ператварылі ваколіцы Мінска ў такую пустэчу, што цар Аляксей

Міхайлавіч у пач. ліпеня 1655 мусіў паслаць чарговы ўказ Чаркаскаму, у якім паўтарыў свае ранейшае патрабаванне не паліць населеных пунктаў і не забіваць людзей. Вайна пачала набываць характар агульнанар. супраціўлення акупацыі, неприкрытаму марадзёрству і рабаўніцтву.

Армія Трубяцкога рушыла на дапамогу атраду, які безвынікова месяц асаджаў Стары Быхаў. Мясц. жыхары, што заселі ў Быхаўскім замку, на шматразовыя прапановы здацца адказвалі шматлікімі вылазкамі. 23 жн. на подступах да Слуцка гараджане далі бой войску Трубяцкога, але не ўстаялі і адышлі пад абарону Слуцкіх гарадскіх умацаванняў. Найноўшая бастыённая фартыфікацыя, моцны гарнізон і гар. апалчэнне, узброеныя першакласнай артылерыяй, дазволілі выстаяць у час тыднёвай аблогі. Рус. войскі, у якіх былі 2—3 гарматы, спалілі прадмесці горада, навакольныя вёскі і фальваркі і рушылі да Слоніма 29 жн. яны разбілі каля мяст. Цімкавічы буйны атрад войск ВКЛ, з баямі былі ўзяты, спалены і вынішчаны Клецк, Ляхавічы, Мыш, Мір, Сталавічы і шмат якія інш. населеныя пункты. Потым Трубяцкой павярнуў на Пн, узяў і спаліў Навагрудак. Тут ён спаткаў 5-тысячны атрад казакоў В. Залатарэнкі, які ішоў з Гродна. Каб зламаць упартае супраціўленне насельніцтва, цар загадаў войскам пакідаць пасля сябе пустыню, каб яны «...идучи дорогою, села и деревни и хлеб и сено и всякие людские и конские кормы... по обе стороны жгли и людей побивали и в полон имали, и разоряли совсем без остатку, и по сторонам потому ж жечь и разорять, посылали». Назад цар загадваў «итти целыми, жилыми месты». Разам з арміяй Трубяцкога абапал берагоў Немана з 18 жн да 1 вер. казакі ўзялі Нясвіж, Карэлічы, Ярэмічы, Рубяжэвічы, Свержань, Стоўбцы, Мерач, Аліту, Пралаю, Апрэны, Радунь, Ліду, Іўе, Любчу і шэраг іншых пунктаў. Прыемы аблогі і ўзяцця гарадоў і мястэчак і іх лёс былі аднолькавыя. Як гэта рабілася, Трубяцкой паведамляў у сваёй адпісцы: «А пришод, государь, к Слониму в городе Слониме литовских людей, которых застали, посекли и город Слоним и слободы и Журавицкой (Жыровіцкі — рэд.) унияцкой монастырь каменной город и около Журавицкого монастыря и костелы жгли и людей побивали и многие места и селы и деревни и за Слоним верст по 20 и больше жгли ж и разорили и воевали сентября по 1-е число. А назад, государь, от Слонима шли товарыщи мои ... к Клецку иными розными ж дорогами жилыми же и невоеваными местами, и те, государь, места по тому ж воевали, жгли и людей побивали и в полон имали и совсем разоряли без остатку» Аб'яднанае расійска-казацкае войска спаліла Нясвіж, аднак замак захапіць не здолела. Спаліўшы па дарозе Капыль, 27 вер. яно зноў прыбыло пад Слуцк. Разаслаўшы карныя атрады, Трубяцкой і І Залатарэнка выпалілі ўсю далёкую ваколіцу Слуцка, адначасова спрабуючы шляхам перагавораў схіліць жыхароў і гарнізон горада здацца. Аднак гэтыя спробы былі марныя. Найб. важныя падзеі лета 1655 адбываліся ў паласе наступлення цэнтр. групоўкі царскіх войск, якая рухалася да сталіцы ВКЛ — Вільні. 4—5 ліп. яе асн. сілы сканцэнтраваліся ў Мінску. 12 ліп. цар са свaёй стаўкі ў Барысаве зрабіў заяву, якая раскрыла гал прычыну і мэту вайны: было абвешчана, што ён ідзе «К Вильно и Оршаве», трон караля Рэчы Паспалітай быў той прыцягальнай сілай, якая кіравала царскімі амбіцыямі і давала шанц на рэванш за няўдалую вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1632—34, калі за вял. колькасць золата быў урэшце адкуплены ад Рэчы Паспалітай тытул маскоўскага гасудара. У авангардзе рус. войск, што наступалі на Вільню, былі палкі ваявод І. С. Празароўскага і О Шчарбатава, якіх падтрымлівалі казакі І. Залатарэнкі. Каля Ашмян паміж рус. войскамі і 7-тысячным атрадам шляхецкай конніцы і пяхоты адбыўся бой, у выніку якога атрад ВКЛ адступіў. Ад палонных стала вядома, што ў Вільні напярэдадні закончыўся сойм ВКЛ, які абвясціў паспалітае рушэнне, і шляхта ўсіх паветаў стала тэрмінова з'язджацца ў Вільню. У канцы ліпеня рус. войскі сканцэнтраваліся на подступах да Вільні каля мяст. Стадалакты, ім процістаяла армія Радзівіла і Гансеўскага колькасцю 10—13 тыс. чал., да якіх пастаянна далучаліся новыя сілы. З Вільні тэрмінова эвакуіраваліся заможныя мяшчане, асабліва яўрэйскія сем'і. З гараджан сабраны тэрміновы ваен. падатак — 100 тыс. злотых. Каб пазбегнуць разбурэння горада, віленскі біскуп Рафал звярнуўся да рус ваявод з прапановай мірнай здачы горада, які не быў падрыхтаваны да абароны, узамен на захаванне правоў і прывілеяў віленчукоў. Буйныя магнаты (Глябовіч, Сапега і інш.) таксама згаджаліся прызнаць уладу цара, калі ён захавае за імі гарады і маёнткі, інш. уладанні, правы і прывілеі. Да гэтых прапаноў далучылася і каталіцкая царква. Але царская стаўка іх не прыняла Тады магнацкая групоўка пераарыентавалася на кіруючыя колы Швецыі і прапанавала ёй узяць ВКЛ пад свой пратэктарат. 29 ліп. вартавыя роты Радзівіла за паўмілі ад горада сутыкнуліся з перадавымі часцямі рус. войск і сталі адступаць да Вільні, каля якой адбыўся жорсткі бой, пасля чаго рус. войскі ўварваліся ў горад. Асабліва ўпарта абараняўся гарнізон Вышняга і Дольнага Віленскіх замкаў пад камандаваннем К. Жаромскага, але і ён мусіў здацца 31 ліпеня. Паводле сведчанняў відавочцаў, расійска-казацкім войскам «на вуліцах, у дамах і касцёлах было больш за 10 тыс чал. забіта, іншых забралі ў няволю маскоўскую, большая частка горада стала полем бою і была ахутана полымем і попелам» Войскі ВКЛ, адступаючы на правы бераг Віліі, спалілі пераправу і колькасцю каля 5 тыс чал накіраваліся на Жмудзь, у Кейданы. 4 жн. ў Вільню са сваімі палкамі прыбыў цар Аляксей Міхайлавіч. Ён прызначыў віленскім ваяводам кн. М. С. Шахаўскога. У сваім універсале ад 7 кастр. цар абяцаў бяспеку шляхце, мяшчанам, сялянам краю, аднак у навакольных лясах пачалі ўжо дзейнічаць сялянскія атрады. У гэты ж час у паўн. раёны ВКЛ, у Жэмайцію, уварвалася шведская армія Магнуса Дэлагардзі, што магло прывесці да сутыкнення, а потым і вайны Расіі са Швецыяй. Уступленне ў вайну Швецыі фактычна сарвала планы цара рушыць свае арміі «к Оршаве», куды яны збіраліся пасля кароткага адпачынку Рус войскі пачалі ачышчаць ад праціўніка бліжэйшыя ад Вільні паветы, частка войск пайшла на Кейданы, якія былі ўзяты ў канцы месяца, і ў Коўна, якое занялі 6 жніўня. Летам 1655 толькі тэр Гродзенскага Панямоння і Берасцейшчына аставаліся свабоднымі ад рус і казацкіх войск. Пасля заняцця Навагрудскага ваяв войскі І Залатарэнкі ў пач. кастрычніка вярнуліся пад Стары Быхаў, аблога якога ўсё яшчэ працягвалася і каля сцен якога ў час адной з вылазак загінуў І Залатарэнка. Неўзабаве ў казацкім войску ўспыхнуў бунт супраць казацкай старшыны, які хутка быў задушаны, запарожскае войска страціла сваю баяздольнасць і вярнулася на Украіну Пад Старым Быхавам застаўся полк бел. казакоў палк І. *Нячая*. Армія Трубяцкога ў верасні адмовілася ад паходу на Брэст і ў кастр 1655 прыйшла да Старога Быхава, адкуль была адведзена ў Новы Быхаў і Магілёў Доўгі час тэрыторыяй, якую не закранула вайна, было Бел. Палессе. 25.6 1655 ваявода Ф. Ф Валконскі паслаў з Кіева пад Петрыкаў руска-укр. атрад кіеў-

Да арт **Вайна Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67.** Апошняя старонка Кейданскага дагавора 1655 аб уніі ВКЛ са Швецыяй

скага палк. П. Яненкі, 5 ліп. адбылася бітва, а праз тыдзень атрад вярнуўся назад у Кіеў. Пазней была зроблена новая спроба заняць Палессе. 1 вер. з Кіева на рачных суднах накіраваўся атрад стольніка Д. А. Валконскага колькасцю 700 чал. салдат і казакоў, 5 вер. ён заняў Тураў, які не супраціўляўся, аднак пад Давыд-Гарадком яму аказала моцнае супраціўленне апалчэнне з 400 чал. мясц. коннай шляхты і 300 узброеных мяшчан. Рэйд Валконскага, як і паход у Пінскі павет палк. Грышкі Чорнага, меў грабежніцкі характар. Пасля ўзяцця Століна салдаты горад «унівеч абярнулі», разрабавалі суседнія вёскі. 20 вер. захоплены *Столінскі замак*. 25 вер. атрад Валконскага падышоў да Пінска. Двойчы пінскае коннае і пешае апалчэнне з артылерыяй паспяхова адбіла напад непрыяцеля. Пасля высадкі дэсанта каля в. Пенкавічы і жорсткага бою горад быў заняты, але ўтрымаць яго атрад Валконскага не змог — 27 вер. атрад мусіў здаць горад і з баямі адплыць у Кіеў. Мяшчане Пінска пазней скардзіліся, што войска Валконскага за некалькі дзён знаходжання ў горадзе «ўсе скарбы, гатовыя сумы, розныя тавары, золата, серабро, свінец, волава, касцельныя і царкоўныя званы, рознае збожжа і ўсе хатнія набыткі дашчэнту выбраўшы, да байдакоў і чаўноў пазносілі і пазвозілі, а адыходзячы з Пінска, замак места, касцёлы, цэрквы, рынкавыя крамы, дамы, фальваркі, а таксама два свірны, што на рынку стаялі, цалкам усё места з дастаткамі спалілі і ўнівеч абярнулі і заледзьве некалькі дзесяткаў дамоў з аднаго канца на прадмесці, да якіх агонь не дайшоў, засталося». Такі ж лёс напаткаў бліжэйшыя мястэчкі і вёскі Піншчыны. Не менш за непрыяцеля мясц. насельніцтва рабавалі і конныя атрады Лісоўскага, якія ішлі з Полаччыны ў Берасцейскі пав. праз Драгічын, Брагін, Хомск, Даўнаровічы, не адставалі ад іх і наёмнікі, якім было ўсё роўна каго рабаваць. У кастр. 1655 група рус. войск пад камандаваннем С. А. Урусава і Ю. Барацінскага зрабіла спробу заняць Брэст. Яна 30 кастр. разбіла атрад войск ВКЛ каля в. Белыя Пяскі, аднак 13 ліст. сама была разбіта за 8 вёрст ад горада войскамі гетмана П. Сапегі. Пазней войска Сапегі было разбіта ў сустрэчным баі каля в. Верхавічы, аднак Брэст так і не быў заняты. Кампанія 1655 закончылася заняццем рус. арміяй Вільні, Коўна і Гродна. Невялікімі астраўкамі незанятай мясцовасці заставаліся Стары Быхаў, Слуцк, Брэст, Нясвіж, Езярышча, Ляхавічы, Палессе і прылеглая да іх тэрыторыя.

Умяшанне ў вайну Швецыі нечакана паспрыяла наладжванню адносін паміж Расіяй і ВКЛ. Пасля перагавораў Корвін-Гансеўскага з баярынам Ліхаровым восенню 1655 ваен. дзеянні на Беларусі былі спынены.

Наступны 1656 быў для ВКЛ і Каралеўства Польскага выключна цяжкім. Шведскі сойм даў Карлу X вял. сродкі для вайны з Рэччу Паспалітай. Швецыя планавала захапіць не толькі Зах. Прусію, але і ўсю Польшчу, Лівонію ў складзе ВКЛ, незанятыя рус. войскам паўн. раёны ВКЛ, не дапусціць выбрання на польскі трон Аляксея Міхайлавіча і ўключэння ў склад Рус. дзяржавы ВКЛ і Польшчы. 18.8.1655 Радзівіл абвясціў акт аб падпарадкаванні ВКЛ Швецыі, а 20 кастр. ў Кейданах была падпісана унія ВКЛ са Швецыяй. Саюзныя дзяржавы мелі аднаго, шведскага, караля, які абавязваўся шанаваць шляхецкія свабоды і прывілеі, апекавацца касцёлам. Шведы займалі Літву, якая абавязвалася пастаўляць іх войску фураж і правіянт. Шведская армія колькасцю каля 10 тыс. чал. згрупавалася ў Інфлянтах, яе ўзначальвалі губернатар Інфлянтаў Магнус Габрыэль дэ ла Гард і фельдмаршал Адольф Левенгаўпт. Армія акупіравала Вількамірскі, Упіцкі, часткова Ковенскі і Браслаўскі паветы, уключаючы Іказнь, Друю і Браслаў. Шведы збіралі кантрыбуцыю, патрабавалі ад шляхты і духавенства выбранцаў у войска, спаганялі падымнае, рэквізавалі коней і фураж. Дашчэнту былі спустошаны Дрысвяты. Усё гэта выклікала рэзкі адпор з боку шляхты і сялянства, якія перайшлі ў некаторых мясцовасцях да метадаў партыз. барацьбы. Сумеснымі дзеяннямі з войскам Корвін-Гансеўскага ў пач. 1657 ВКЛ было ачышчана ад шведаў. Аднак летам 1657 аб'яднанае войска шведскага караля Карла X і семіградскага кн. Ракашы асадзіла Брэст і авалодала ім дзякуючы здрадзе гарнізона замка, аснову якога складала наёмная ням. пяхота колькасцю 1700 чал. 12.7.1657 войскі ВКЛ на чале з Сапегам і падчашым М. Радзівілам вызвалілі Брэсцкі замак. Шведам у аблозе Брэста дапамагалі ўкр. казакі на чале з палк. А. Ждановічам, рабілася гэта не без згоды Хмяльніцкага, які сімпатызаваў Б. Радзівілу, прыхільніку Швецыі. Па просьбе Радзівіла ён кантраляваў слуцкія ўладанні, не пускаючы туды ні рус., ні польскія войскі, выдаў 6.8.1656 і ў крас. 1657 ахоўныя універсалы на абарону радзівілаўскіх уладанняў Слуцка, Сяльца, Венграва, Старога Сяла. У час наступлення шведаў на Польшчу і ВКЛ казакі падтрымлівалі Швецыю. Яны нават занялі Мінскі пав., не даючы рус. атрадам вывозіць збожжа, і грамілі двары той шляхты, якая супрацоўнічала з рускімі. У выніку такой палітыкі казакоў Навагрудчына нечакана аказалася не занятай ні царскім, ні казацкім войскам і лічылася шведскай зонай акупацыі. Гарнізон радзівілаўскага Слуцка рабіў рэйды за правіянтам аж у Мінскае ваяв. і лічыўся па-прашведску настроеным. Збег розных акалічнасцей прывёў да таго, што Навагрудскае ваяв. панесла меншыя страты, чым суседнія. Перад Швецыяй адкрывалася заманлівая перспектыва стаць паўнаўладным гаспадаром на Балтыйскім моры, закрыць Расіі выхад да ўзбярэжжа Балтыкі і манапалізаваць увесь знешні гандаль. Рэч Паспалітая, аслабленая вайной з Расіяй, не магла адразу даць шведам адпор. Пануючыя колы краіны вырашылі пачаць перагаворы аб спыненні ваен. дзеянняў на Беларусі і Украіне. Перагаворы Расіі з Рэччу Паспалітай адбываліся з 12 жн. да 27.10.1656 у неспрыяльных для Расіі ваен. і паліт. умовах. У выніку *Віленскага перамір'я 1656* была дасягнута згода аб спыненні на 2 гады ваен. дзеянняў, бакі пагадзіліся не заключаць міру са шведамі. Разглядалася пытанне і пра выбранне цара Аляксея Міхайлавіча на польскі трон. Гэту ідэю падтрымлівалі 2 групоўкі дробнай шляхты, адну з іх узначальваў В. Орда. Шляхта прызнала цара вял. князем ВКЛ і прысягнула яму, аднак на гэтым усё скончылася. Ужо з канца вер. 1658 войскі Рэчы Паспалітай блакіравалі Вільню і Віленскі пав., а ў кастр. адбылося некалькі сутыкненняў войск Сапегі і Гансеўскага з атрадамі ваяводы Далгарукага. Атрад Гансеўскага быў разбіты рус. войскамі, а сам ён трапіў у палон. Няўдачай скончылася спроба войск ВКЛ захапіць Вільню. Пачалася новая паласа ваен. дзеянняў на тэр. Беларусі. Становішча рус. войск увосень і ўзімку 1658—59 рэзка пагоршылася. Шляхта, мяшчане і сяляне, якія прысягнулі Расіі, пачалі масава «ламаць» прысягу і выступаць са зброяй не толькі супраць рус. войск, але і супраць той часткі насельніцтва, якая падтрымлівала рус. ўрад. На Беларусі разгарнулася грамадз. вайна, выкліканая жорсткай акупац. палітыкай царскай адміністрацыі, бясконцымі рабаваннямі і захопам у палон мірнага насельніцтва. Перавароты адбыліся ў Старым Быхаве, Мсціславе, Крычаве, Чавусах, Рослаўе. Здрадзіў цару і шэраг укр. палкоўнікаў на чале з Нячаем і Выгоўскім. На іх баку дзейнічалі сялянска-казацкія атрады Д. Мурашкі, Сапрыкі, Слізкага, Драня. Чавускі палкоўнік Нячай клапаціўся перш за ўсё пра свае інтарэсы і казацкай старшыны, якая імкнулася любымі шляхамі ўстанавіць сваё панаванне над усх. часткай Беларусі. Па загаду Нячая казацкія сотні пачалі займаць населеныя пункты ў Магілёўскім, Шклоўскім, Копыскім і Мсціслаўскім паветах. Рус. салдаты спрабавалі аказаць казакам супраціўленне, але былі адтуль выбіты. Сам Нячай пачаў называць сябе «палкоўнікам беларускім». На занятай тэрыторыі старшына запісвала сялян і мяшчан у казакі, прымушала іх выконваць розныя павіннасці на карысць казацкага войска. Восенню 1658 на Беларусі разгарнулася барацьба паміж рус. і ўкр. войскамі. Для задушэння антырускіх выступленняў быў створаны спец. карны атрад на чале з Лабанавым-Растоўскім, якому шляхам аблог і штурмаў удалося задушыць у 1659 супраціўленне ў Мсціславе, Рослаўе, Крычаве, Старым Быхаве. Ваен. дзеянні вяліся ў раёне Коўна — Гродна. Гродна неаднойчы пераходзіла з рук у рукі і падвяргалася доўгім аблогам. Горад з прадмесцямі і фальваркамі быў дашчэнту зруйнаваны і спустошаны.

15.1.1660 войскі рус. ваяводы І. А. Хаванскага за 80 км ад Брэста пад Мальчай разбілі полк М. Абуховіча і штурмам узялі Брэст, адсюль планавалася рабіць рэйды ў глыб Польшчы, на Люблін і Варшаву. Былі зруйнаваны Шарашова і Камянец. У сак. Хаванскі адышоў пад Ляхавічы, аднак узяць *Ляхавіцкі замак* не здолеў. Прысланы на дапамогу атрад С. Змеева з Магілёва сітуацыю не палепшыў і быў перакінуты на аблогу Нясвіжа.

Вясной 1660 паміж Швецыяй і Рэччу Паспалітай быў заключаны Аліўскі мір, граніца паміж ВКЛ і Швецыяй прайшла па Зах. Дзвіне. Мір вызваліў значныя ваен. сілы Рэчы Паспалітай, што былі кінуты супраць рус. войск, якія пачалі цярпець паражэнні. 18 чэр. Хаванскі быў разбіты каля Старой Мышы войскамі Сапегі, С. Чарнецкага, Палубенскага, Кміты, быў захоплены ўвесь рус. абоз.

З лета 1660 вайна ўступіла ў сваю апошнюю стадыю, яна стала набываць характар усенароднай, вызваленчай. На дапамогу Хаванскаму цар накіраваў 2 групоўкі войск Ю. А. і П. А. Далгарукіх. Іх дзеянні пад Барысавам, Шкловам і Магілёвам не маглі выратаваць агульную стратэгічную сітуацыю. 8 кастр. паблізу Чавус адбыўся жорсткі бой войск ВКЛ з групоўкай Далгарукага, што перашкодзіла яго ўз'яднанню з Хаванскім. У сярэдзіне кастр. 1660 Хаванскі зноў быў разбіты пад Талачыном, а ўвосень 1661 ён і А. Л. Ардын-Нашчокін пацярпелі новае паражэнне пад Кушлікамі на Полаччыне ад войск ВКЛ, якімі камандаваў Жаромскі. З 20 тыс. рускіх не больш за 1 тыс. чал. выратавалася, адступіўшы ў Полацк разам з Хаванскім і параненым Ардын-Нашчокіным. Сын Хаванскага трапіў у палон, было захоплена 9 гармат, сцягі, палкавы абраз і ўвесь абоз. У 1661 адбыліся перавароты ў Магілёве, Дзісне і Себежы, нарэшце была вызвалена Вільня. З ВКЛ пачаўся масавы вываз стратэгічных запасаў прадуктаў, зброі, усяго каштоўнага. Паводле дакументаў, з Полацка, Віцебска, Дынабурга, Люцына, Рэжыцы, Марыенгаўза, гарадоў цэнтр. і зах. Беларусі, Коўна і інш. «церковные апараты, образы и книги и иные речи, а также прибытки, дела и амуниция и все оружья, и пеняжный скарб и хлебные запасы» вывозіліся. Адным са зборных пунктаў быў Барысаў. На Беларусі ад голаду пачалося людаедства, што было зафіксавана царскімі чыноўнікамі ў шмат якіх месцах. Гэтаму спрыялі і дзеянні казакоў Нячая, якія рабавалі вёскі і маёнткі, гвалтоўна запісвалі сялян у сваё войска, адбіраючы ў непакорных зямлю і ўчыняючы такім чынам нечуваны голад. Хмяльніцкаму на дзеянні яго казакоў у Беларусі даносілі, што не без іх удзелу ўзнік сярод тутэйшых жыхароў такі голад, «какова перед тем давно не слыхано: не токмо что мертвечину и всякую нечистоту, но и плоти человеческие едят...». У найцяжэйшую сітуацыю пастаяннага рабавання і наездаў ва ўмовах вайны трапіла бел. сялянства. За права валодаць ім змагаліся розныя шляхецкія групоўкі, якія то прысягалі цару, то здраджвалі пасля першых паражэнняў рус. арміі; свае правы прад'яўляла ва ўсх. і паўд.-ўсх. паветах укр. казацкая старшына; мяшчане гарадоў, якія прысягнулі цару, асабліва заможная іх частка, прыбірала да сваіх рук бліжэйшыя да гарадоў сёлы. Частка вёсак аддавалася служылай шляхце і казакам часова «на пракармленне», гэтыя паселішчы рабаваліся асабліва жорстка. На тэр. Магілёўшчыны, Гомельшчыны і часткова Віцебшчыны паміж рус. акупацыйнай адміністрацыяй і адміністрацыяй укр. казацкай старшыны пачаліся сутыкненні за права валодаць гарадамі, мястэчкамі і вёскамі. Казакі Хмяльніцкага лічылі, што занятыя імі раёны адносяцца да Украіны. У казацкае войска масава ўступала сялянства і частка бел. мяшчан, якія хацелі пажывіцца за кошт шляхецкай маёмасці і зямельных надзелаў. Радавое цяглае сялянства трапіла ў пастку складанай і заблытанай палітыкі ваюючых бакоў і супярэчнасцей бел. шляхты і мяшчанства, усяго «паспольства», якое да таго ж знаходзілася ў стане грамадз. вайны. Да ўсяго гэтага дадалася эпідэмія маравой пошасці, якая спустошыла значныя рэгіёны Беларусі. У выніку на велізарных абшарах цэнтр. і ўсх. Беларусі ўтварыліся зоны татальных спусташэнняў і абязлюджання: вёскі і палі зарасталі лесам, гінулі гарады і мястэчкі з усім комплексам эканомікі, духоўнай і матэрыяльнай культуры. Вайна падзяліла гараджан на прыхільнікаў цара і тых, хто застаўся верным сваёй дзяржаве, каралю і гарадскому магдэбургскаму праву. Мяшчанства было таксама ўцягнута ў падзеі грамадз. вайны і несла велізарныя людскія страты. Прыйшоў у занядад унутраны і знешні гандаль, які ўзяла пад жорсткі кантроль рус. адміністрацыя, унутраны рынак запаланілі абясцэненыя рас. медныя грошы, насельніцтва не хацела прымаць і ўводзіць іх у абарачэнне. Гандаль быў абкладзены царскай пошлінай, аднак традыцыі магдэбургскага самакіравання ў гарадах Беларусі царская адміністрацыя вымушана была захаваць, а таксама пацвердзіць правы гарадоў на навакольныя вёскі, набытыя ў ранейшыя часы за ратушныя грошы. Працяглая вайна, каласальныя разбурэнні і матэрыяльныя страты падарвалі казну ВКЛ і Польшчы. Войскам пераcталі плаціць грошы. У ліп. 1661 утварылася канфедэрацыя часткі польскіх войск, якая адмовілася падпарадкоўвацца каралю. Другую групоўку ўзначаліў С. Чарнецкі. У вер. 1661 сканфедэравалася войска ВКЛ на чале з Жаромскім і Катоўскім, з 22 тыс. чал. у яго ўвайшло 12 310 салдат, у асноўным наёмнікаў з еўрап. краін, а таксама татарская харугва. Створанае войска адмовілася ваяваць, пакуль не атрымае заробленых грошай. У час армейскага бунту Жаромскі і Гансеўскі былі забіты салдатамі (замест Гансеўскага польным гетманам стаў М. Пац). Пасля выплаты доўгу (19 млн. злотых) канфедэрацыя 21.7.1663 спыніла сваю дзейнасць.

Ваенныя дзеянні на Беларусі ўвосень 1661 перапыніліся, бо паявілася надзея правесці мірныя перагаворы, якія адбыліся ў 1662, але закончыліся безвынікова (акрамя абмену ваеннапалоннымі). На Падзвінні войскі Рэчы Паспалітай вялі баі пад Віцебскам і Полацкам. 9.7.1662 пасля 2 гадоў аблогі здаўся рус. гарнізон у Барысаўскім замку, а ў сярэдзіне снеж. 1662 — Усвят. У 1663—64 на Беларусі адбываліся баі мясц. значэння, якія абвастрыліся летам 1664. Атрады рус. войск дзейнічалі пад Магілёвам, Віцебскам і Полацкам, каля напаўразбураных Шклова і Копысі. Войска Хаванскага зноў пацярпела паражэнне пад Віцебскам, які быў акружаны атрадамі Рэчы Паспалітай. 1.6.1664 у Дубровічах на Смаленшчыне (паміж Красным і Звяровічамі) пачаліся мірныя перагаворы. Прадстаўнікі Рэчы Паспалітай настойвалі на заключэнні вечнага міру накшталт Паляноўскага міру 1634, аднак Расія не прыняла такіх умоў. Перагаворы перапыніліся, аднавіліся ў жніўні, а ў вер. 1664 былі адкладзены да 1665. У крас. 1666 у в. Ануфрыева каля Мсціслава мірныя перагаворы аднавіліся. Яны адбываліся

Табліца 1

**Страты дымоў у паветах ВКЛ за 1648—67 (па рэгіёнах)**

| Павет | Колькасць дымоў | | Колькасць знішчаных дымоў | |
|---|---|---|---|---|
| | перад вайной | пасля вайны | у абсалютных лічбах | у працэнтах |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| Жмудскі | 49 056 | 33 959 | 15 097 | 30,8 |
| Упіцкі | 23 470 | 15 420 | 8050 | 34,3 |
| Ковенскі | 12 479 | 7919 | 4560 | 36,5 |
| Трокскі | 12 020 | 7451 | 4569 | 38,2 |
| Гродзенскі | 24 914 | 17 742 | 7172 | 28,8 |
| Вілкамірскі | 20 373 | 15 750 | 4623 | 22,7 |
| Браслаўскі | 5613 | 2612 | 3001 | 53,4 |
| Віленскі | 16 501 | 8468 | 8033 | 48,7 |
| Ашмянскі | 30 542 | 15 236 | 15 306 | 50,1 |
| Лідскі | 11 860 | 9621 | 2239 | 18,8 |
| Ваўкавыскі | 10 118 | 7679 | 2439 | 24,1 |
| Слонімскі | 11 022 | 9619 | 1403 | 13,0 |
| Навагрудскі | 41 249 | 25 559 | 15 590 | 38,0 |
| Брэсцкі | 40 455 | 22 591 | 17 864 | 44,1 |
| Пінскі | 23 262 | 14 211 | 9051 | 39,0 |
| Мінскі | 25 892 | 10 352 | 15 540 | 60,0 |
| Рэчыцкі | 4342 | 1816 | 2526 | 58,2 |
| Мазырскі | 5276 | 2305 | 2971 | 56,3 |
| Полацкі | 23 204 | 6297 | 16 277 | 70,1 |
| Віцебскі | 10 035 | 4096 | 5939 | 59,2 |
| Аршанскі | 67 600 | 22 310 | 45 290 | 67,0 |
| Мсціслаўскі | 13 769 | 4237 | 9532 | 69,3 |
| Усяго | 483052 | 265880 | 217172 | 44,9 |

Табліца 2

**Страты насельніцтва ў паветах ВКЛ за 1648—67 (па рэгіеиах)**

| Павет | Колькасць насельніцтва | | Колькасць знішчанага насельніцтва | |
|---|---|---|---|---|
| | перад вайной | пасля вайны | у абсалютных лічбах | у працэнтах |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| Жмудскі | 392 448 | 254 693 | 137 755 | 35,3 |
| Упіцкі | 187 760 | 115 650 | 72 110 | 38,4 |
| Ковенскі | 99 832 | 59 393 | 40 439 | 40,5 |
| Трокскі | 96 180 | 55 883 | 40 277 | 42,0 |
| Гродзенскі | 199 312 | 133 065 | 66 247 | 33,2 |
| Вілкамірскі | 162 984 | 116 125 | 46 859 | 28,7 |
| Браслаўскі | 44 904 | 19 590 | 25 314 | 56,3 |
| Віленскі | 132 008 | 63 510 | 68 498 | 51,8 |
| Ашмянскі | 244 336 | 114 270 | 130 066 | 53,2 |
| Лідскі | 94 880 | 71 158 | 23 722 | 25,0 |
| Ваўкавыскі | 80 944 | 58 593 | 22 351 | 27,6 |
| Слонімскі | 88 176 | 72 143 | 160 033 | 18,2 |
| Навагрудскі | 329 992 | 191 693 | 138 299 | 42,0 |
| Брэсцкі | 323 640 | 169 433 | 154 207 | 47,6 |
| Пінскі | 186 095 | 106 583 | 79 513 | 42,7 |
| Мінскі | 207 136 | 77 640 | 129 496 | 61,8 |
| Рэчыцкі | 34 736 | 13 620 | 21 116 | 60,8 |
| Мазырскі | 42 208 | 17 288 | 24 920 | 59,0 |
| Полацкі | 185 632 | 51 953 | 133 679 | 72,0 |
| Віцебскі | 80 280 | 30 720 | 49 560 | 61,7 |
| Аршанскі | 540 800 | 167 325 | 373 475 | 69,0 |
| Мсціслаўскі | 110 152 | 31 778 | 78 374 | 71,1 |
| Усяго | 3 864 416 | 1 994 106 | 1 870 310 | 48,4 |

ў час паўстання Е. Любамірскага супраць каралеўскай улады, што ўмела выкарыстаў рус. бок Летам 1666 група войск пад камандаваннем Я К. Чаркаскага, І С. Празароўскага і І. А. Варатынскага заняла Шклоў і Копысь, зрабіла спробу ўзяць Магілеў, але беспаспяхова. Пасля гэтага мірныя перагаворы працягваліся і завяршыліся падпісаннем *Андросаўскага перамір'я 1667* на 13 гадоў (да чэрв. 1680). Так закончылася доўгая і кровапралітная вайна, вынікі якой для ВКЛ былі трагічныя. Насельніцтва скарацілася з 2,9 млн. чал. да 1,4 млн. чал, загінула больш за палавіну жыхароў, асабліва пацярпелі Мсціслаўскае, Віцебскае, Полацкае і Мінскае ваяводствы (гл. табліцы 1 і 2). Аднак у вайне 1654—67 царскі ўрад не дасягнуў сваіх гал мэт ён не змог далучыць да Расіі Беларусь і Правабярэжную Украіну, пацярпела крах ідэя набыць новыя землі для баяр і дваран Расіі, а галоўнае — цар Аляксей Міхайлавіч не змог заняць трон Рэчы Паспалітай, далучыць яе да Расіі Поўную няўдачу пацярпела імкненне ўкр. казацкай старшыны — далучыць да Украіны землі Бел. Падняпроўя і Пасожжа

*Кр* Акты, издаваемые Виленскою комиссиею для разбора древних актов. Т 34 Вильна, 1909, Дворцовые разряды Т 3 (1645—1676) Спб, 1852; Витебская старина Т 1 Витебск, 1883; Т 4, ч 2 Витебск, 1885, Величко С Летопись событий в Юго-Западной России в XVII веке Т 1—4 Киев, 1848—64, Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России, собранные и изданные Археографической комиссией Т 14 Спб, 1889, Акты Московского государства Т 2—3 Спб, 1894—1901, Летопись Самовидца по новооткрытым спискам С приложениями трех малороссийских хроник Хмельницкой, «Краткого описания Малороссии» и «Собрания исторического». Киев, 1878, Беларускі архіў. Т 1—3 Мн., 1927—30, Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах Т 1 (IX—XIII). Мн, 1936, Белоруссия в эпоху феодализма. Т 2 С середнны XVII до XVIII века До воссоединеиия с Россией Мн, 1960,

*Літ* Мальцев А Н. Россия и Белоруссия в середине XVII в М, 1974, Абецедарский Л С Белоруссия и Россия. Очерки рус-бел связей второй половины XVI—XVII в Мн, 1978; Савич А. А. Борьба за Белоруссию и Украину в 1654—1667 годы (Из истории рус-пол отношений второй половины XVII в) // Уч зап Моск. гос пед ин-та Кафедра истории СССР 1947 Т 2, вып 2, Соловьев С М История России с древнейших времен Кн 5—6, т 9—12. М, 1961, Карпачев А М, Козловский П Г. Динамика численности населения Белоруссии во второй половине XVII—XVIII вв Тез докл и сообщ 10 сессии симпозиума по аграрной нстории Восточной Европы М, 1968 С 99, Morzy J Kryzys demograficzny na Litwie i Białorusi w 2 połowie XVII wieky Poznan, 1965, Ткачоў М А Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII—XVIII ст Мн, 1978

*М А Ткачоў*

**ВАЙНА́ РЭ́ЧЫ ПАСПАЛІ́ТАЙ З РАСІ́ЯЙ 1609—18,** вайна за вяртанне Беларуска-Літоўскай дзяржаве Смаленскай зямлі і за ўтварэнне федэрацыі Рэчы Паспалітай з Маскоўскай дзяржавай. Выклікана супярэчнасцямі па тэрытарыяльных пытаннях паміж дзвюма дзяржавамі, няўстойлівым становішчам у Маскоўскай дзяржаве («смутай»), падтрымкай каралем і вял. князем Жыгімонтам Вазай, часткай польскага і бел.-літ. войска, укр. і данскімі казакамі Лжэдзмітрыя II У гэтых умовах цар Васіль Шуйскі хацеў заключыць дагавор з Жыгімонтам, але баярская апазіцыя ў Маскве, жадаючы пазбавіцца ад В. Шуйскага, патаемна прапанавала царскую карону сыну караля Уладзіславу. Жыгімонт пачаў падрыхтоўку да вайны. Узнік план далучыць Маскоўскую дзяржаву да Рэчы Паспалітай у якасці члена федэрацыі. Зачэпкай да пачатку вайны было ўвядзенне шведскага корпуса на чале з Я Дэлагардзі на тэр. Расіі для барацьбы з атрадамі прыхільнікаў Ілжэдзмітрыя II, які стаяў у с. Тушына каля Масквы Пакольк Жыгімонт быў у стане вайны са Швецыяй (гл *Вайна Рэчы Паспалітай са Швецыяй 1600—29*), то ўвядзенне каралеўскіх шведскіх войск у Расію і яе саюз са Швецыяй разглядаліся як варожы акт. Жыгімонт узначаліў войска, у якое ўвайшлі і 12 пяхотных выбранецкіх рот ВКЛ, далучыліся польскія, бел.-літ. і ўкраінскія атрады з-пад Тушына У вер 1609 пачалася аблога Смаленска. Першымі да горада падышлі атрады Л Сапегі, потым польскага гетмана польнага С. Жулкеўскага, але толькі 3(13).6 1611 горад быў узяты. У выніку распаду лагера Лжэдзмітрыя II, які ўцек у Калугу, тушынскія баяры і дваране не пайшлі на замірэнне з Шуйскім, а накіравалі пасольства пад Смаленск да Жыгімонта. 4(14).2.1610 баяры на чале з тушынскім патрыярхам Філарэтам (дагэтуль мітрапаліт растоўскі, з баярскага роду Раманавых) падпісалі дагавор аб заняцці маскоўскага трона 15-гадовым сынам караля Уладзіславам, які будзе кіраваць Расійскай дзяржавай разам з Баярскай думай 24.6(4 7).1610 войска Жулкеўскага, якое налічвала 6325 чал. конніцы, 200 пяхоты, мела 4 невялікія гарматы, пад Клушынам (каля Гжацка) разбіла рус. войска (35 тыс. чал.) на чале з братам цара кн. Дз. Шуйскім і падышло да Масквы. Там у выніку перавароту цар В. Шуйскі быў скінуты з трона, баярская рада («сямібаяршчына») як часовы ўрад заключыла ў жн 1610 дагавор з Жыгімонтам і запрасіла на трон Уладзіслава, афіцыйна абвешчанага царом Расіі. У вер. 1610 польскае і бел.-літ. войска заняло Маскву. Гэта рэзка змяніла сітуацыю ў Расіі. Жыгімонт не адпусціў сына ў Маскву. Ён больш схіляўся да дзярж. уніі Рэчы Паспалітай і Расіі. Дзеля гэтага ў Варшаву былі высланы ўсе магчымыя прэтэндэнты на маскоўскі трон, уключна з В. Шуйскім і Філарэтам У сак. 1611 першае апалчэнне з расійскіх дваран, стральцоў, служылых казакоў, з атрадаў прыхільнікаў ужо да таго часу забітага Лжэдзмітрыя II кн Дз. Трубяцкога і атамана І Заруцкага на чале з разанскім ваяводам П. Ляпуновым спрабавала заняць Маскву, але пасля няўдачы перайшло да аблогі. Пасля забойства ў ліп 1611 Ляпунова казакамі большасць дваран-апалчэнцаў разышлася. У пач. жн. 1612 да Масквы падышло 2-е апалчэнне, сфарміраванае ў Ніжнім Ноўгарадзе земскім старастам К. Мініным і вайсковым кіраўніком ваяводам кн. Дз. Пажарскім, да яго далучыліся казакі кн. Трубяцкога. 22.8 (1.9).1612 да Масквы з 3-тысячным войскам і абозам падышоў гетман вял. літоўскі Ян Караль Хадкевіч, 24.8 (3.9).1612 ен быў адбіты значна большымі расійскімі сіламі. Запозненая спроба падтрымаць гарнізон польскіх і бел.-літ. войск у Маскве, а потым пасадзіць на трон Уладзіслава не ўдалася. У пач. ліст. 1612 пасля штурму Кітай-горада капітуляваў гарнізон Крамля. У лют 1613 Земскі сабор абраў царом 16-гадовага Міхаіла Федаравіча Раманава, сына Філарэта. Мінін і Пажарскі адхілены ад кіравання. На чале ўрада сталі баяры і дваране, якія раней супрацоўнічалі з польскімі і бел.-літ інтэрвентамі. У наступныя гады Жыгімонт дапамагаў каралевічу Уладзіславу як «маскоўскаму цару» заваеўваць землі на У, але недахоп грошай не дазволіў сабраць вялікае войска. У 1613 маскоўскае войска падышло да Смаленска, але ў крас. 1614 бел.-літ. войска Яна Пятра Сапегі і Аляксандра Лісоўскага вызваліла горад ад аблогі. У 1615 бел-літ. войскі Януша Кішкі і Лісоўскага зра-

былі рэйды адпаведна на Старадуб і Бранск. У 1617—18 каралевіч Уладзіслаў Жыгімонтавіч сам узначаліў паход на Маскву, каб вярнуць трон Праз Беларусь пайшло яго войска на чале з гетманам Хадкевічам, далучыліся ўкр казакі на чале з гетманам П Сагайдачным, данскія казакі і рэшткі казацка-сялянскіх атрадаў часоў паўстання І Балотнікава Іх пазіцыя падмацоўвалася шматлікімі дарчымі граматамі Уладзіслава розным групам насельніцтва (у т л. і сялянам) Напалоханы ўрад Міхаіла Раманава пачаў рыхтаваць войскі Маскоўскія ваяводы здалі Дарагабуж, Вязьму У кастр 1618 Уладзіслаў з З, Сагайдачны з Пд падышлі да Масквы і размясціліся каля Арбацкай брамы, але штурм вынікаў не даў, не былі ўзяты таксама Мажайск і Троіцка-Сергіеў манастыр Вычарпаныя баявыя рэсурсы і значныя страты ў людзях прымусілі абодва бакі пайсці на перагаворы. 1(11) 12 1618 у с Дэуліна заключана *Дэулінскае перамір'е 1618* на 14,5 года Да ВКЛ адыходзілі смаленскія (за выключэннем Вязьмы), да Польшчы — ноўгарад-северскія і чарнігаўскія землі з гарадамі Каралевіч Уладзіслаў захаваў тытул «цара маскоўскага і ўсяе Расіі», але на троне застаўся Міхаіл Раманаў Пытанне аб канчатковым міры было адкладзена.

*Літ* Пирлинг П Из смутного времени Ст и заметки Спб 1902 Платонов С Ф Очерки по истории смуты в Московском государстве XVI—XVII вв М, 1937, Шепелев И С Освободительная и классовая борьба в Русском государстве в 1608—1610 гг Пятигорск, 1957, Соловьев С М Сочинения Кн 4—5 М, 1989—90, Korzon T Dzieje wojen i wojskowości w Polsce T 2 2 wyd Lwow etc, 1923 Zarus dziejow wojskowości polskiej do roku 1864 T 1 Warszawa, 1965

*А П Грыцкевіч*

**ВАЙНА́ РЭ́ЧЫ ПАСПАЛІТАЙ СА ШВЕ́ЦЫЯЙ 1600—29,** доўгачасовая вайна за панаванне на Балтыйскім моры. Польскі кароль *Жыгімонт III* Ваза [сын шведскага прынца, пазней караля Яна (Юхана) III і дачкі польскага караля Жыгімонта I Старога Катажыны] у 1592 стаў і каралем Швецыі Лютэранская апазіцыя ў Швецыі на сойме ў 1599 дэтранізавала яго, і Жыгімонт III у 1600 уключыў Эстляндыю (Паўн Эстонію) у склад Рэчы Паспалітай, што стала зачэпкай да вайны З 1602 пачаліся актыўныя ваен дзеянні У вайне асабліва вызначылася бел-літ войска на чале з гетманам польным літ Янам Каралем Хадкевічам, які ў час кампаніі атрымаў булаву вял. гетмана ВКЛ Новы шведскі кароль (з 1604) Карл IX (дзядзька Жыгімонта III) з 14-тысячным войскам асадзіў Рыгу Хадкевіч з 4-тысячным войскам каля в Кірхгольм (непадалёку ад Рыгі) 27 9 1605 разграміў у 3 разы большыя сілы ворага, які страціў 9 тыс воінаў У бітве найб. вызначылася бел-літ конніца пад камандаваннем Яна Пятра Сапегі У 1606 пуцкі староста Ян Вэйгер атрымаў перамогу ў марской бітве каля паўвострава Хэль Ваенныя дзеянні працягваліся яшчэ 2 гады, у выніку шведы занялі частку Інфлянтаў (Ліфляндыі) У 1609 войскі Хадкевіча ўзялі г. Пярну і атрымалі новую перамогу каля Рыгі Але паколькі ім не плацілі грошай (іх не было ў скарбе), войскі разышліся. У 1611 каралем Швецыі стаў Густаў II Адольф Ваенныя дзеянні ў Прыбалтыцы прыпыніліся з-за ўдзелу Рэчы Паспалітай і Швецыі ў інтэрвенцыі ў Расію ў 1609 На 8 гадоў было падпісана перамір'е У 1617 шведы аднавілі ваен дзеянні і занялі г Пярну У 1618 заключана новае перамір'е да 1620 Рэч Паспалітая ў гэты час была занята вайною з Турцыяй і Крымскім ханствам Гэта выкарыстаў Густаў II Адольф і ў 1621 заняў большую частку Інфлянтаў разам з Рыгай (25 9 1621), пазней заняў і Мітаву (Елгаву) — сталіцу васальнага ў адносінах да Рэчы Паспалітай Курляндскага герцагства У 1622 гетман польны літ Крыштоф Радзівіл пасля аблогі вярнуў Мітаву, але ў складзе Рэчы Паспалітай засталіся толькі Курляндыя і паўд -ўсх Інфлянты 11 8 1622 у Мітаве падпісана пагадненне пра перамір'е, паводле якога мытныя даходы ад гандлю ВКЛ з балтыйскімі краінамі і Еўропай дасталіся Швецыі У 1625 пачаўся апошні перыяд вайны, калі Густаў II Адольф пачаў наступленне на рэшту Інфлянтаў і Жамойцію Шведы занялі Какенгаўзен, аблажылі г Дэрпт (Тарту), захапілі радзівілаўскае ўладанне г Біржы (Біржай) у Жэмайціі Бел -літ войску ўдалося адстаяць г Дынабург (Даўгаўпілс) Ваенныя дзеянні былі перанесены ў Прусію і далей у Германію У гэты перыяд войскі Рэчы Паспалітай атрымалі перамогі на моры каля Alівы (1627) і на сушы каля Тшцяны (1629) Але шведы занялі ўсю Прусію 26.9 1629 у г. Альтмарк (Новы Тарг) падпісаны дагавор аб перамір'і, паводле якога ўсе парты, акрамя Каралеўца (Кенігсберга), Гданьска і Пуцка, і ўся Ліфляндыя да Зах. Дзвіны пераходзілі да Швецыі У выніку вайны Швецыя замацавалася ў Прыбалтыцы, кантралявала балтыйскі гандаль Рэчы Паспалітай, мела гарантаваны тыл для вядзення вайны ў Германіі, падтрымліваючы там пратэстанцкіх князёў, якія выступалі супраць імператара і каталіцкіх князёў, намецціўся шведска-прускі саюз супраць Рэчы Паспалітай Канчатковы мір на 26 гадоў быў падпісаны ў 1635, калі шведскае войска выйшла з тэр. Прусіі, васальнай у адносінах да Польшчы, і адмовілася ад мыта з гандлю Рэчы Паспалітай

*Літ* Konopczynski W Dzieje Polski nowozytnej London 1958 T 1 S 203—204, 264—277, Dzieje Polski Warszawa, 1976 S 274—275, 277, 322—323

*А П Грыцкевіч*

**ВАЙНІЛО́ВІЧ** Антон Станіслававіч (1801, Гродзенская губ — 2-я пал 1845), дваранскі рэвалюцыянер Са старадаўняга бел шляхецкага роду *Вайніловічаў* Вайсковую службу пачаў у 1816, з 1819 у Чарнігаўскім пях палку, падпаручнік (1823). У тайныя т-вы не ўваходзіў Пра паўстанне 14(26) 12 1825 на Сенацкай плошчы ў Пецярбургу даведаўся ў мяст Васількаў Кіеўскай губ, дзе жыў разам з С І *Мураўёвым Апосталам* У час паўстання Чарнігаўскага палка (29 12 1825—3 1 1826) забяспечваў яго правіянтам, узначальваў авангард палка ў час маршу, разам з капітанам Казловым прывёў з в. Снецінка ў Матавілаўку на злучэнне з паўстаўшымі падраздзяленнямі 1-ю грэнадзерскую роту (яна, аднак, удзельнічаць у паўстанні адмовілася) У ноч на 2 1 1826 адстаў ад паўстанцаў і з'явіўся да начальства Камісіяй ваен суда ў Магілеве прыгавораны да адсячэння галавы, паводле царскай канфірмацыі (1826) пазбаўлены чыноў і дваранства і высланы ў Сібір для службы ў войску затым пераведзены на Каўказ у Кабардзінскі пях полк Удзельнічаў у рускаперсідскай вайне 1826—28 Загінуў у баі з горцамі

*В В Швед*

**ВАЙНІЛО́ВІЧ** Восіп Мікалаевіч [1860 Віцебск — 12(24) 5 1890], рэвалюцыянер-народнік З дваран. Вучыўся ў Віцебскай гімназіі Быў членам *Віцебскага рэвалюцыйнага гуртка* У 1882 паступіў на медыцынскі факультэт Варшаўскага ун-та Адзін са стваральнікаў *Варшаўскага нарадавольніцкага гуртка беларускіх студэнтаў*, які цесна ўзаемадзейнічаў з польскай рабочай партыяй «Пралетарыят» у справе сацыяліст прапаганды і пры стварэнні нелегальнай друкарні Варшаўская кватэра В выкарыстоўвалася нарадавольцамі для канспіратыўных сувязей з «Пралетарыятам», сюды паступалі пісьмы, нелегальнае друкарскае абсталяванне За ўдзел у выступленнях варшаўскіх студэнтаў (крас 1883) як «асоба шкоднага напрамку» і «адзін з канаводаў студэнцкіх беспарадкаў» быў выключаны з універсітэта і прыцягнуты да дазнання з устанаўленнем за ім чэрв 1883 тайнага нагляду паліцыі Жыў у Віцебску, дзе 8.3.1884 арыштаваны, да снеж 1884 утрымліваўся пад стражай Пасля выхаду з турмы знаходзіўся пад наглядам паліцыі Даваў прыватныя ўрокі, займаўся літ творчасцю

*Літ* Czerepica W Związki rewolucjonistów Białorusi i Polski w latach 70—80 XIX wieku Warszawa, 1985

*В М Чарапіца*

**ВАЙНІЛО́ВІЧ** Эдвард Адам (13 10 1847 Сляпянка, цяпер у межах Мінска — 16 6 1928), гаспадарчы і палітычны дзеяч Беларусі Паходзіць са шляхецкага роду *Вайніловічаў* Адзін з найбагацейшых памешчыкаў Мінскай губ (маенткі Савічы, Пузаў Цімкавіцкай вол Слуцкага пав і інш) Скончыў Слуцкую гімназію (1865), Пецярбургскі тэхналагічны ін-т (1869) Працаваў інжынерам-механікам на Пуцілаўскім з-дзе ў Пецярбургу, ста жываўся на з-дах Германіі і Бельгіі, потым заняўся сельскай гаспадаркай З 1878 член, віцэ-старшыня, старшыня *Мінскага таварыства сельскай гаспадаркі* Старшыня Т-ва дабрачын

насці Слуцкага пав., прычыніўся да адкрыцця ў Слуцку гандлевай школы. У 1906 выбраны ад памешчыкаў Мінскай губ. членам Дзярж. савета Расійскай імперыі, дзе быў старшыней «Кола Польскага Каралеўства, Літвы і Русі». Пасля ўвядзення самакіравання ў Мінскай губ. (1911) дэпутат губ. земскай управы ад «польскай» (каталіцкай) курыі Слуцкага паа. На працягу 35 гадоў ганаровы суддзя Слуцкага пав. У 1917 працаваў у земскіх арг-цыях разам з дзеячам бел. руху А. Смолічам і Р. Скірмунтам, падтрымаў утварэнне БНР, але з асцярогай паставіўся да абвяшчэння поўнай незалежнасці. Удзельнічаў у пасяджэннях Рады БНР. У 1918, у час ням. акупацыі, ад імя мясцовых памешчыкаў выступіў з планам аднаўлення ВКЛ. Стварыў «Саюз памешчыкаў Мінскай губерні». У снеж. 1918 выехаў у Варшаву, быў адным з арганізатараў «Саюза палякаў з беларускіх ускраін», які ў студз. 1919 прапанаваў устанавіць усх мяжу Рэчы Паспалітай да Дняпра і Зах Дзвіны. У крас. 1919 удзельнічаў у пераўтварэнні «Саюза памешчыкаў Мінскай губерні» ў «Саюз памешчыкаў Літвы і Беларусі ў Варшаве». У маі 1919 разам з В. і Л. Дубейкаўскімі стварыў у Варшаве «Польска-беларускае таварыства для палітычнага і культурнага супрацоўніцтва на Беларусі» (сярод членаў т-ва М. Ванькові́ч, княгіня М. Радзівіл, Р Скірмунт). У канцы жн 1919 выехаў у Мінск, у вер. вярнууся ў маентак Савічы. Працягваў грамадскую дзейнасць у Слуцку, выязджаў у Мінск і Варшаву. У гэты час быў прыхільнікам незалежнай Беларусі ў саюзе з Польшчай, выступаў супраць падзелу Беларусі Польшчай і бальшавікамі. У доме В. ў Слуцку 14—15 11.1920 праходзіў бел. з'езд Случчыны, які ўзняў *Слуцкае паўстанне 1920*. У памяць сваіх дзяцей Сымона (1885—97) і Алены (1884—1903) пабудаваў у Мінску касцел св Сымона і Алены («Чырвоны касцел»). Апошнія гады жыцця цяжка хварэў і адышоў ад грамадскага жыцця. Памер у Быдгашчы (Польшча) Аўтар успамінаў.

*Тв* Wspomnienia, 1847—1928 Cz 1 Wilno, 1931 *А П Грыцкевіч*

**ВАЙНІЛО́ВІЧЫ**, старажытны беларускі шляхецкі род герба ўласнага («Сыракомля» зменены) у чырв. полі белы (залаты) *«Габданк»* са стралой вастрыем уніз. Паводле некаторых крыніц, заснавальнікам роду быў Вайніла, які ў канцы 14 ст першы пачаў ужываць гэты герб. Прадстаўнікі роду займалі розныя пасады ў мясц. адміністрацыі ВКЛ, мелі зямельныя ўладанні ў Мазырскім (лінія савіцка-пузаўская, 17 ст.), Пінскім (лінія макранская, 19 ст.), Навагрудскім (лінія нянькаўская, 19 ст.) паветах.

Найбольш вядомыя· Т р а я н, падчашы мсціслаўскі (1648); Л е ў К а з і м і р, падчашы слонімскі (1648); Л ю д в і к, стольнік мазырскі (1661); Т а м а ш, сакратар каралеўскі, харужы ваўкавыскі, сеймавы пасол (1662); Г а б р ы э л ь, староста літунскі (1667), стольнік навагрудскі; С т а н і с л а ў, мечнік лідскі; К р ы ш т о ф (1649—?), падчашы мазырскі, стольнік мазырскі (1688); Ф р а н ц і ш а к, падчашы мазырскі; Я н, падваявода навагрудскі; П а в е л, падчашы слонімскі; С е б а с ц ь я н, стольнік мазырскі; Т а м а ш, падстолі навагрудскі; С т а ф а н, падстолі слонімскі; А д а м, канюшы навагрудскі, падкаморы, сеймавы пасол; Я н, падкаморы слуцкі; А н т о н і (1773—1885), маршалак шляхты Слуцкага пав.; Т а д э в у ш (1804—78), маршалак шляхты Слуцкага пав., М і к а л а й, доктар тэалогіі; Ю з а ф, маршалак шляхты Навагрудскага пав.; Ю з а ф, маршалак шляхты Слуцкага пав. (1863—75); К с а в е р ы й Э д в а р д (псеўд. Яцак Бурчымуха), польскі паэт, перакладчык твораў А. С. Пушкіна на польскую мову; А н т о н С т а н і с л а в а в і ч, дваранскі рэвалюцыянер (гл. *Вайніловіч* А. С.); В о с і п М і к а л а е в і ч, рэвалюцыянер-народнік (гл. *Вайніловіч* В. М.) і інш.

*Р В Баравы, Л. Л Чарняўская.*

**ВАЙНІ́ЛЫ**, веска ў Чавускім р-не, на р. Будлянка (прыток р. Раста). Цэнтр сельсавета і саўгаса «XVIII партз'езд». За 18 км на З ад г. Чавусы, 5 км ад чыг. ст. Раста на лініі Магілёў — Крычаў. 234 двары, 582 ж. (1990).

Вядома з 1560 як сяло ў Магілеўскай вол. ВКЛ, дзярж. уласнасць; у 1563—15 дамоў. З 1580 у валоданні памешчыкаў. На пач. 17 ст. існаваў млын. У 1742 у Гарбавіцкім войтаўстве Магілеўскай эканоміі Аршанскага пав.; 5 двароў, дзейнічалі млын і карчма. Паводле 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772), адышла да Расійскай імперыі. У 1785 дварцовая ўласнасць; 303 ж., 37 двароў. У 1858 — 125 рэвізскіх душ, у Чавускім пав. У 1878 памешчык меў тут 1927 дзес. зямлі і карчму. У 1880 — 342 ж., 60 двароў. Частка вяскоўцаў займалася стальмашным рамяством (выраб колаў і вазоў). У 1894 пачала дзейнічаць вінакурня (у 1913 — 8 рабочых, паравы рухавік). У 1897 вёска ў Галянеўскай вол. Чавускага паа.; 461 ж., 72 двары. Побач былі фальварак (23 ж., 3 двары, вінакурня, паравы млын, кузня), пастаялы двор (3 ж.) і сядзіба (8 ж.). У 1909 у весцы 625 ж., 87 двароў, адкрыта школа; у фальварку 13 ж., 1 двор. Савецкая ўлада ўстаноўлена ў студз. 1918. На базе дарэвалюцыйнай створана працоўная школа 1-й ступені, у якой у 1925 было 98 вучняў. У 1924 адкрыта хата-чытальня. Дзейнічаў гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых У 1920-я гады ў весцы была падсобная гаспадарка саўгаса «Ялава» У 1931 створаны саўгас «Вайнілы» (у 1934 меў 1 трактар). У 1934 адкрыты дзіцячыя яслі. У 1940 — 580 ж., 132 двары. У Вял. Айч. вайну 10.7.1941 акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў кастр. 1943 спалілі 70 дамоў, загубілі 11 жыхароў. Вызвалена 25.6.1944 часцямі 139-й стралк. дывізіі 38-га стралк. корпуса 50-й арміі 2-га Бел. фронту ў ходзе *Магілёўскай аперацыі 1944*. Пасля вайны веска адбудавана. З 27.6. 1969 цэнтр Вайнілаўскага сельсавета. У 1970 — 251 двор, 716 ж. Пачатковая школа, дзіцячы сад-яслі, Дом культуры, бібліятэка, аддз. сувязі, 3 магазіны. У В. брацкая магіла сав. воінаў і магіла юнага партызана-разведчыка В. М. Панкова, якія загінулі ў баях супраць акупантаў; помнік землякам, што загінулі на франтах і ў партыз. барацьбе.

*М Б Батвіннік*

**ВА́ЙНРУБ** Мацей Рыгоравіч [н. 2(15).5.1910, Барысаў], Герой Сав. Саюза (1945). Ген.-лейт. танкавых войск (1968). Працаваў на шклозаводзе ў Барысаве. З 1929 у Чырв. Арміі. Скончыў Аб'яднаную бел. ваен. школу (1931), Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1941). З чэрв. 1941 на Зах., Паўд.-Зах., Сталінградскім, 3-м Укр., 1-м Бел. франтах нач. разведкі дывізіі, камандзір танкавага палка, камандуючы бранятанкавымі і механізаванымі войскамі — нам. камандуючага войскамі 62-й (з 1943—8-я гв.) арміі, якая з баямі прайшла ад Волгі да Берліна. Удзельнік абароны Сталінграда Вызначыўся ў студз 1945 у час прарыву ўмацаванай паласы абароны ворага на левым беразе Віслы на Пд ад Варшавы. У 1951 скончыў Ваен. акадэмію Генштаба. Да 1970 у Сав. Арміі. Ганаровы грамадзянін г. Познань (Польшча).

**ВА́ЙНРУБ** Яўсей Рыгоравіч [н. 15(28).5.1909, Барысаў], Герой Сав. Саюза (1945). Працаваў на шклозаводзе ў Барысаве. З 1931 у Чырв. Арміі. Скончыў Маскоўскі індустрыяльны ін-т (1931), курсы ваен. перакладчыкаў (1937), Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1941). На фронце з 1941, удзельнік абароны Беларусі, баеў пад Смаленскам, Масквой, Тулай, Арлом, вызвалення Беларусі Са снеж. 1944 палк. В. камандаваў танкавай брыгадай, якая вызначылася ў Вісла-Одэрскай аперацыі. За 2 месяцы баеў брыгада вызваліла больш за 400 населеных пунктаў Польшчы, адна з першых уварвалася ў Берлін. Да 1955 у Сав. Арміі, палкоўнік. Пазней працаваў на Мінскім аўтазаводзе, у Мін-ве лясной прам-сці БССР.

**ВАЙНШТЭ́ЙН** Арон Ісакавіч (парт. псеўд. Р а х м і э л ь, Р а х м і л е в і ч; 23.11.1877, Вільня — 1938), удзельнік рэв. руху, дзярж. дзеяч БССР. Скончыўшы Віленскі яўрэйскі настаўніцкі ін-т (1897), працаваў на настаўніцкіх курсах у Варшаве. З 1897 чл. Бунда, з 1898 чл. яго Варшаўскай арг-цыі, потым чл. яе к-та. Удзельнічаў у выданні газ. «Warschawer Arbeiter» («Варшаўскі рабочы»). Дэлегат 3-га з'езда Бунда (1900, Коўна) Вясной 1901 паводле рашэння ЦК Бунда накіраваны на работу ў Вільню, узначаліў там мясц к-т Бунда. У 1901—21 чл. ЦК Бунда (з 1917 яго старшыня). Неаднаразова быў арыштаваны царскімі ўладамі, у 1914—17 сасланы ў Сібір. З 1917 на Беларусі, чл. выканкома Мінскай гар. савета, старшыня Мінскай гар. думы.

Кастр. рэв. 1917 сустрэў варожа, але, займаючы цэнтрысцкія пазіцыі, выступаў супраць узброенага звяржэння бальшавікоў. У час ням. і польскай акупацыі Беларусі (1918, 1919—20) негатыўна ставіўся да дзейнасці Рады БНР. Ад імя Бунда падпісаў *Дэкларацыю аб абвяшчэнні незалежнасці Беларускай ССР* (31.7.1920). У жн.— снеж. 1920 чл. ВРК БССР ад Бунда. Пасля 2-га Усебел. з'езда Саветаў (снеж. 1920) старшыня Саўнаргаса БССР. У 1921, пасля роспуску Бунда, чл. ЦБ КП(б)Б, чл. прэзідыума ЦВК БССР. З канца 1921 нам. старшыні СНК Кіргізіі, у 1922 старшыня Савета працы і абароны Кіргізіі. З 1923 чл. калегіі Наркамфіна СССР, нач. Галоўнага ўпраўлення дзярж. фінансавага кантролю. У 1938 незаконна рэпрэсіраваны. *Э. А. Ліпецкі.*

**ВАЙСКО́ВА-ДЫПЛАМАТЫ́ЧНАЯ МІ́СІЯ БНР** у Латвіі і Эстоніі, дыпламатычнае прадстаўніцтва *Беларускай Народнай Рэспублікі* ў 1919—21. Накіравана ў вер. 1919 Радай народных міністраў БНР на чале з А. І. Луцкевічам для консульскай працы і арганізацыі бел. узброеных сіл на тэр. Эстоніі. Была акрэдытавана пры ўрадах Латвіі і Эстоніі. Размяшчалася ў Рызе (вул. Нікалаеўская, 20). Начальнік місіі К. Б. Езавітаў, вайсковыя райцы падпалк. Р. Шоўкавы (да 19.5.1920), ген.-маёр П. Ф. Вент, сакратары І. А. Чарапук (да 31.5.1920), паручнік Ю. Гладкі. 5.4.1920 паўнамоцтвы місіі былі пацверджаны ўрадам В. Ю. Ластоўскага. Пры місіі дзейнічалі рэгістрацыйна-пашпартныя аддзелы ў Таліне (7.12. 1919— жн. 1920; кіраўнікі Ф. Шанкат да 26.4.1920, затым М. Маркевіч) і ў Ліепаі (26.12.1919 — 8.8.1920; кіраўнік П. Цвяткоў). Ёй падпарадкоўвалася таксама консульства БНР у Рызе (ліп. 1919 — 1.2.1921; консулы штабс-капітан Б. Шымковіч, Р. Казячы, д-р У. В. Пігулеўскі). Місія ўдзельнічала ў рабоце бел.-латышскай памежнай камісіі (сак. 1920), падрыхтавала надзвычайную дыпламатычную місію на чале з В. І. Захаркам у Маскву (ліп. 1920) і Бел. нац.-паліт. нараду ў Рызе (20.10.1920). Ажыццяўляла палітычнае і арганізацыйнае кіраўніцтва Асобным атрадам БНР на чале з С. Булак-Балаховічам, змагалася за ўдзел БНР у Канферэнцыі балтыйскіх дзяржаў (жн. 1920). Садзейнічала арганізацыйнаму афармленню бел. калоніі ў Латвіі (старшыня Рады Я. Я. Данілюк), стварэнню бел. прэс-бюро ў Рызе, культ.-асветнага т-ва *«Бацькаўшчына»*, курсаў беларусазнаўства, часопіса *«На чужыне»* і інш. Надрукавала і распаўсюдзіла паштовыя маркі «Асобны атрад БНР». У выніку дыпламатычнага націску Сав. Расіі на ўрад Латвіі напярэдадні падпісання *Рыжскага мірнага дагавора 1921* дзейнасць місіі 1.2.1921 была спынена.

*Літ.:* За дзяржаўную незалежнасць Беларусі: Дакументы і матэрыялы... Лендан, 1960. *Р. А. Лобаў.*

Шыльда **Вайскова-дыпламатычнай місіі БНР.** Беларускі дзяржаўны музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны.

**ВАЙТО́ВІЧ** Сяргей Данілавіч (13.10. 1925, в. Забалоцце Бялыніцкага р-на — 12.2.1989), беларускі гісторык. Д-р гіст. навук (1979). Скончыў Магілёўскі пед. ін-т (1952). Удзельнік Айч. вайны. З 1962 працаваў у Ін-це гісторыі АН БССР. Даследаваў гісторыю міжнар. дзейнасці БССР. Адзін з аўтараў «Гісторыі Беларускай ССР» (т. 5, 1975), калект. манаграфій «Супрацоўніцтва Беларускай ССР з сацыялістычнымі краінамі» (1970), «У адзіным страі змагароў за мір» (1989).

*Тв.:* БССР в борьбе за мир и сотрудничество между народами (1945—1965 гг.). Мн., 1968; Белорусская ССР и развивающиеся страны (1945—1970 гг.). Мн., 1974; БССР на форуме наций. Мн., 1978; БССР в отношениях СССР с развивающимися странами, 1971—1985 гг. Мн., 1985; БССР в экономических отношениях СССР с зарубежными странами (1945—1987). Мн., 1989. *А. С. Ляднёва.*

**ВАЙЦАХО́ВІЧ** Сяргей Рыгоравіч (20.3. 1903, в. Сярагі Слуцкага р-на — 3.9. 1977), адзін з кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху на тэр. Пінскай вобл. ў Вял. Айч. вайну. Скончыў Камуніст. ун-т Беларусі (1932). У 1921—30 на сав., з 1933 на парт. рабоце ў Слуцку; з 1938 інструктар ЦК КП(б)Б, з крас. 1941 сакратар Пінскага абкома КП(б)Б. У Айч. вайну з 23.4.1943 да ліп. 1944 2-і сакратар *Пінскага падпольнага абкома КП(б)Б*. У 1944—47 сакратар Пінскага абкома КП(б)Б. Яго імем названа вуліца ў Пінску.

**ВАЙЦЯХО́ВІЧ** Альберт Казіміравіч [2(14).3.1877, Вілейка — ліст. 1957], удзельнік барацьбы за сав. ўладу на Екацярынаслаўшчыне. З 1896 працаваў фармоўшчыкам ліцейнага цэха на з-дзе ў Екацярынаславе (цяпер Днепрапятроўск), уваходзіў у рабочы гурток, удзельнічаў у стачачнай барацьбе рабочых чыгуначных майстэрняў. Удзельнік рэвалюцыі 1905—07. Пасля яе паражэння ўзначальваў Заводскі падп. райком РСДРП у Екацярынаславе. У 1916 арыштаваны і сасланы ў Сібір. Пасля лют. рэвалюцыі з сак. 1917 чл. Екацярынаслаўскага к-та РСДРП, дэп. гарсавета, арганізатар Чырв. гвардыі. У студз. 1918 — маі 1919 у Екацярынаслаўскім губвыканкоме, заг. аддзела губернскага эвакапункта. У 1920—51 на сав. і гасп. рабоце. Яго імем названы вуліца і дзіцячы парк у Днепрапятроўску. *Э. А. Карніловіч.*

**ВАЙШКУНЫ́**, курганны могільнік балтаў 9—11 ст. каля в. Вайшкуны Пастаўскага р-на. За 2 км на ПнУ ад вёскі, ва ўрочышчы Магілы (Гарэлы Бор). 21 круглы насып дыяметрам 6—10 м, вышынёй 0,3—1,5 м (пераважаюць курганы дыяметрам 7—9 м, вышынёй 0,5—1 м), больш высокія — у цэнтральнай, больш нізкія — у заходняй частках могільніка. Вакол большасці насыпаў ёсць раўкі з перамычкамі (ад 3 да 6). 6 насыпаў з запалымі вяршынямі. Абследавалі ў 1938—39 А. Цэгак-Галубовіч і У. Галубовіч, у 1975 даследаваў 9 курганоў ва ўсх. і паўн. частках могільніка Я. Г. Звяруга. Пахавальны абрад — трупаспаленне на гарызонце ў насыпе. У большасці курганоў выяўлены рэшткі вогнішчаў дыяметрам 5—6 м. Пахавальны інвентар жал. сякеры з шырокім лязом і круглай абушнай адтулінай, наканечнік кап'я падоўжана-яйцападобнай формы, шыла, шпілька з рухомай кольцападобнай галоўкай, бронзавыя званочкі з крыжападобнай прораззю, званок для жывёлы, спіралькі, ланцужкі, абломкі шыйных грыўняў, бранзалетаў і інш. упрыгожанняў, разнастайныя па памерах і форме зліткі бронзы, гліняныя прасліцы, ганчарная кераміка.

*Літ.:* Зверуго Я. Г. Раскопки курганов в Понеманье // Археологические открытия 1975 года. М., 1976; Его ж. Верхнее Понеманье в IX—XIII вв. Мн., 1989. *Я. Г. Звяруга*

**ВАЙШНА́ВЫ** (санскрыт — адданыя), кры шнаіты, паслядоўнікі рэлігійна-філас. вучэння, перанятага з раздзела «Бхагавадгіта» (Песня Бога) старажытнаіндыйскага эпасу «Махабхарата». Вучэнне выкладзена ад імя Крышны (Усявышняга Бога), які нарадзіўся на зямлі ў вобразе мудрага цара-воіна, каб перадаць сваім вучням сістэму бхакці-ёгі (шлях любві да Бога). Паводле гэтага вучэння, людзі з'яўляюцца спрадвечна духоўнымі істотамі, якія могуць вызваліцца ад пакут матэрыяльнага існавання і кола перараджэнняў пры дапамозе магічнай практыкі. Яны маюць магчымасць атрымаць стан вечнага шчасця (Свядомасць Крышны) і трапіць на трансцэндэнтальную планету Крышны (Крышналоку). Гэта планета лічыцца вечнай у адрозненне ад матэрыяльнага свету, які будзе знішчаны праз 4 эпохі. В. лічаць, што настала апошняя эпоха — Калі-Юга (Жалезны век), эпоха зла і пакут, найб. неспрыяльная для чалавека. У 16 ст. прапаведнік Шры Чайтанья Махапрабху ўнёс у вучэнне метад санскіртаны (услаўлення Бога ў танцы і апяванне імем Бога) і распрацаваў прынцыпы арганізацыі абшчыны В., у якую ўваходзілі прадстаўнікі розных каст, нацыянальнасцей, веравызнанняў, а таксама жанчыны. Пачынаючы з 1965 Шры Шрымад А. Ч. Бхактыведанта Свамі Прабхупада (1896—1977) распаўсюджваў вучэнне В.

ў ЗША, пазней пашырыў сваю дзейнасць на іншыя краіны свету. У 1966 ён заснаваў Міжнар. т-ва свядомасці Крышны, у якое ўваходзяць храмы, школы, інстытуты, с.-г. абшчыны; дзейнічае выдавецтва. З 1971 абшчыны В. з'явіліся на тэр. СССР, дзе да 1985 яны падвяргаліся рэпрэсіям. На Беларусі арганізацыя В. з'явілася ў 1989. У Мінску дзейнічаюць храм і кафэ В. У іншых гарадах Беларусі ёсць адзінкавыя паслядоўнікі вучэння.

*Літ.:* Пудов В. С. Кришнаиты-вайшнавы в СССР // На пути к свободе совести. М., 1989; Фаликов Б. З. Трансформация индуизма в США // Взаимодействие культур Востока и Запада. М., 1987; Сатсварупа Даса Гасвами. Очерки ведической культуры: что говорит о себе великая традиция. [Б. м.], 1990. *А. В. Гурко.*

**ВА́КАР** Сяргей Міхайлавіч (н. 27.8.1928, г. Орша), беларускі скульптар. Засл. дзеяч мастацтваў Беларусі (1978). Скончыў Бел. тэатральна-мастацкі ін-т (1966). Працуе ў галіне станковай і манументальнай скульптуры. Вял. Айч. вайне прысвечаны кампазіцыі «Рэйкавая вайна» (1957), «Юныя мсціўцы» (1958), «Подзвіг Пятра Купрыянава» (1960). Стварыў *шэраг* скульпт. партрэтаў дзярж. дзеячаў (У. І. Леніна, 1974; Ф. Э. Дзяржынскага, 1977), герояў грамадз. і Вял. Айч. войнаў (Г. Дз. Гая, 1969; У. М. Азіна, 1978; М. Ф. Кедышкі, 1964—67; М. П. Шмырова, 1969; К. С. Заслонава, 1973; К. П. Арлоўскага, 1972), дзеячаў бел. культуры (Ф. Скарыны, 1964; М. Багдановіча, 1969; М. Гусоўскага, 1980, і інш.). Скульптар часам адмаўляецца ад дакладнасці ў перадачы аблічча гіст. асобы на карысць абагульненага вобраза. Аўтар помнікаў: адміралу В. П. Драздў ў Буда-Кашалёве (1964), Ф. Э. Дзяржынскаму ў сядзібе Дзяржынава Стаўбцоўскага р-на (1977), У. М. Азіну ў Полацку (1979), М. Багдановічу ў Мінску (1981).

*Літ.:* Петэрсон Э. А. С. М. Вакар. Мн., 1980. *Э. А. Петэрсон.*

**ВАКО́ЛІЧНАЯ ШЛЯ́ХТА**, адна з ніжэйшых груп дробнамаянтковай шляхты на Беларусі ў 16—19 ст. Называлася таксама шляхтай засцянковай, заградовай, загонавай, шарачковай і інш. Юрыдычна адносілася да пануючага саслоўя феадалаў, маёмасна набліжалася да працоўнага сялянства. Паходзіць са свабодных людзей (*баяр, зямян* і інш.), якія маглі дакументальна пацвердзіць асабістую вольнасць ад цяглавачыншавых абавязкаў. Сялілася ў адасобленых паселішчах (*аколіцы, засценкі*, абрубы) на землях, не занятых гаспадарскімі дварамі і надзеламі залежных сялян. Зямлёй валодала паводле родавачыншавага права, апрацоўвала яе самастойна, але ў дапамогу нярэдка наймала *агароднікаў*, халупнікаў і інш. сялян. У канцы 18 ст. каля 5 % В. ш. мелі прыгонных. Удзельнічала ў ваяводска-пав. сойміках, паспалітым рушэнні *(апалчэнні)*, карысталася юрыд. неда-

С. М. **Вакар.** Помнік Максіму Багдановічу ў Мінску.

тыкальнасцю, прымала ўдзел у надзвычайных агульназемскіх ваен. і рамонтнабудаўнічых мерапрыемствах. Набілітацыю атрымлівала паводле родавага паходжання, даказанага сведкамі і каралеўска-соймавымі прывілеямі. Вылучалася пачуццём уласнай годнасці, незалежнасці, саслоўна-карпаратыўнай выключнасці і салідарнасці. У 1796 у 8 паветах былога ВКЛ складала 61 % усёй шляхты, у 1839 у зах. губернях Расійскай імперыі — 56 %. У 1810 сярэдняя гаспадарка ваколічнага шляхціца Магілёўскай губ. складалася з 7 душ, мела 7,7 дзес. зямлі, 1,8 селяніна. Пасля ўключэння ВКЛ у склад Расійскай імперыі ў выніку падзелаў Рэчы Паспалітай, пасля ўвядзення падушных рэвізій, рэкрутцва, маёмаснага цэнзу пры выбарах і інш. у канцы 18 — пач. 19 ст. В. ш. страціла свае саслоўна-паліт. правы. Актыўна ўдзельнічала ў *паўстанні 1830—31* у Польшчы, на Беларусі і ў Літве. Указам Мікалая І ад 19.10.1831 В. ш. выключана з дваранскага саслоўя і пераведзена ў катэгорыю аселых аднадворцаў, абавязаных 3-рублёвым падымным падаткам і рэкруцкім наборам з 15-гадовага ўзросту. Указам ад 1.8.1857 аднадворцы на ўласнай і дзярж. зямлі былі прыраўнаваны да *дзяржаўных сялян*, а на памешчыцкай — праз добраахвотныя пагадненні з уласнікамі зямлі — зберагалі права захавання і ўзнаўлення вольнасці (гл. *Вольныя людзі*).

*Літ.:* Козловский П. Г. Землевладение и землепользование в Белоруссии в XVIII — первой половине XIX в. Мн., 1982; Грушевский А. Пинское Полесье XIV—XVI вв.: Ист. очерки. Киев, 1903; Леонтович Ф. И. Крестьянский двор в Литовско-Русском государстве. Вып. 1—3. Спб., 1897—98. Gloger Z. Szlachta okoliczna na Żmujdzi // Biblioteka Warszawska. 1877. T. 4, z. 11; Яго ж. Dawna ziemia Bielska i jej cząstkowa szlachta. Warszawa, 1873; Smoleński W. Drobna szlachta w Królestwie Polskiem. Warszawa, 1885; Rychlikowa I. Deklasacja drobnej szlachty polskiej w Cesarstwie Rosyjskim // Przegląd Historyczny. 1988. T. 79, z. 1; Яе ж. Ziemiaństwo Polskie, 1789—1864. Warszawa, 1983; Malinowski M. O Ziemianach, podług dawnych praw Litewskich // Teka Wileńska. 1857. № 1; Horoszkiewicz R. Szlachta zasciankowa na ziemiach wschodnich. 2 wyd. Pinsk, 1937.

*Я. К. Анішчанка.*

**ВАКО́ЛЬНЫ ГО́РАД**, частка сярэдневяковага горада побач з *дзядзінцам*, абнесеная валамі і равамі. Звычайна В. г. станавіўся *пасад*, утвараючы 2-ю паласу абароны горада. У 12 ст. В. г. мелі буйныя гарады. Жыхары В. г. аб'ядноўваліся ў абшчыны на аснове самакіравання. Паводле *Іпацьеўскага летапісу*, у 1274 быў у Навагрудку. Валы і равы В. г. 12—13 ст. зберагліся ў Ваўкавыску, Друцку, Тураве.

*Літ.:* Штыхов Г. В. Города Белоруссии по летописям и раскопкам (IX—XIII вв.). Мн., 1975; Тимощук Б. А. Археологические признаки посада древнерусского города // Тр. 5-го междунар. конгресса слав. археологии. М., 1987. Т. 1, вып. 2б.

**ВА́КСМАН** Ісак Фёдаравіч (25.7.1922, мяст. Краснаполле Чэрыкаўскага пав. Гомельскай губ., цяпер г. п. Краснаполле — 19.12.1943), Герой Сав. Саюза (1944). У 1938—40 вучыўся ў Днепрапятроўскім транспартным ін-це. Працаваў настаўнікам на радзіме. У Чырв. Арміі з 1941. На фронце з кастр. 1942. Удзельнік баёў пад Сталінградам, на Доне, Дняпры, Северскім Данцы. Вызначыўся 26.11.1943 пры фарсіраванні Дняпра каля Запарожжа і ў баях за плацдарм. Батарэя пад камандаваннем ст. лейт. В. пад агнём ворага падавіла 15 агнявых пунктаў ворага, адбіла 10 контратак, знішчыла танк, 2 аўтамашыны, больш за 100 гітлераўцаў. Загінуў у баі. Пахаваны ў с. Канеўскае Запарожскага р-на. Яго імем названы вуліца ў Краснаполлі, школа ў в. Беразякі 1-я Краснапольскага р-на; у Краснаполлі, на доме, дзе ён жыў, устаноўлена мемарыяльная дошка.

**ВАКУ́ЛЬСКІ** Аляксандр Васілевіч (н. 28.8.1922, в. Калтыманава Іглінскага р-на Башкірыі), Герой Сав. Саюза (1945). Беларус. Працаваў токарам на Уфімскім маторным з-дзе. У Чырв. Арміі з 1941. Скончыў Тамбоўскую ваеннаавіяцыйную школу пілотаў (1942). На фронце з ліст. 1943, камандзір эскадрыллі штурмавога авіяпалка. Удзельнік баёў на Віцебска-Полацкім напрамку, вызваленне Літвы і Латвіі, разгрому кёнігсбергскай групоўкі ворага. Капітан В. зрабіў 111 баявых вылетаў, удзельнічаў у 17 паветраных баях, збіў 3 самалёты, знішчыў 55 аўтамашын, 9 гармат, 5 танкаў, 5 артыл. і мінамётных батарэй, 5 складоў з боепрыпасамі і гаручым, заглушыў агонь 12 батарэй зенітнай артылерыі ворага. У 1946—62 у грамадз. авіяцыі.

**ВАЛАДА́Р ГЛЕ́БАВІЧ** (?—?), князь менскі, магчыма, і гарадзецкі, сын менскага кн. *Глеба Усяславіча*. Працягваў барацьбу менскіх князёў за ўстанаўленне дамінуючага становішча Менска ў *Полацкай зямлі*, выкарыстоўваючы для гэтага атрады з літоўцаў. У 1158 (паводле

Іпацьеўскага летапісу — у 1159) выступіў з братамі ў паход супраць Полацкага кн. *Рагвалода Барысавіча*, але не ўдзельнічаў у заключэнні міру з ім, бо, паводле летапісу, «ходяше под Литвою в лесех». У 1161 (1162) знаходзіўся ў Гарадцы (дакладнае месцазнаходжанне населенага пункта не высветлена). У час паходу полацкага кн. Рагвалода ён разам з Літвою нанёс яму жорсткае паражэнне (частка палачан была знішчана, большая частка ўзята ў палон). У 1167 выступіў супраць полацкага кн. *Усяслава Васількавіча*, разграміў яго войска і заняў полацкі трон, заключыўшы з полацкім вечам умову і замацаваўшы яе цалаваннем крыжа. Затым В. Г. накіраваўся ў Віцебск, куды ўцёк пасля паражэння Усяслаў, але даведаўшыся, што на дапамогу віцябчанам ідзе смаленскі кн. Раман, вярнуўся ў свае землі. Гэта паражэнне паклала канец дзейнасці В. Г. па ўзвышэнні Менска і аб'яднанні Полацкай зямлі.

*Літ.*: Полн. собр. русских летописей. Т. 2. Ипатьевская летопись. М., 1962. С. 496, 519; Соловьев С. М. История России с древнейших времен. Кн. 1, т. 1—2. М., 1962; Алексеев Л. В. Полоцкая земля в IX—XIII вв.: (Очерки истории Северной Белоруссии). М., 1966; Ермаловіч М. Старажытная Беларусь: Полацкі і новагародскі перыяды. Мн., 1990.

*Г. В. Штыхаў.*

**ВАЛАДКО́ВІЧЫ** (Валадкевічы), шляхецкі род герба *«Радван»* зменены. Магчыма, В. паходзяць ад Каспара Мікалаевіча В., шляхціца з Віленскага пав., сыны якога Марцін і Рыгор у 1567 ставілі ў войска ВКЛ 2 конных воінаў з маёнтка Геранёны Ашмянскага пав. Марцін В. згадваецца і ў ліку шляхты Менскага пав.

Найб. вядомыя прадстаўнікі роду:

Марцін (згадваецца ў 1567—82), пісар земскі, суддзя земскі і гарадніччы менскі (1582). Меў сына Адама і дачку Палонію, якая была жонкаю кн. Пятра Друцкага-Горскага.

Марцін (? — ?), верагодна, сын Адама, унук Марціна. Суддзя земскі менскі (1628).

Крыштоф [1600(?) — 1670], пісар земскі менскі, ваявода навагрудскі (1658). У 1645 другім шлюбам ажаніўся з княжной Альжбетай з роду Друцкіх-Саколінскіх (памерла ў 1653). Яго дачка Соф'я Канстанцыя ў 1652 выйшла за маршалка ВКЛ кн. А. Палубінскага.

Марцін Казімір (? — ?), гараднічы і падстароста менскі (1649). Яго нашчадкамі, напэўна, былі В., якія ў 2-й пал. 17—18 ст. займалі розныя пасады ў Менскім пав.

Магчыма, да гэтага роду адносіліся В.: Сенька, які ў канцы 15 — пач. 16 ст. служыў князям Мсціслаўскім і атрымаў ад іх вёскі Касмынічы і Філіпаўшчыну; Павел, які ў 1582 з сынам Васілём служыў удаве кн. Ю. Ю. Слуцкага Кацярыне з Тэнчынскіх; Рыгор, полацкі шляхціц, згадваецца ў 1582; Дзям'ян (памёр да 1582), жонкай якога была Палонія Лядская. У Жамойці існаваў род В. герба «Лебедзь». *В. Л. Насевіч.*

**ВАЛАКУ́ША**, 1) старадаўняя прылада для рыхлення глебы, зграбання сена, саломы, пустазелля, выраўноўвання раллі; тое, што і *вершаліна*. Выкарыстоўвалася на Беларусі ў 10—19 ст. 2) Прымітыўнае прыстасаванне для перавозкі грузаў ва ўмовах бездарожжа — дзве доўгія, змацаваныя папярочкамі жэрдкі, адны канцы з якіх служылі палазамі, другія — аглоблямі. Былі В. і без аглабель, тады каня ў іх запрагалі пры дапамозе пастронкаў і ворчыка. В. перавозілі каменне з палёў, бярвёны з лесу. Вядома з эпохі феадалізму да пач. 20 ст. 3) Прыстасаванне для сцягвання сена ў стог. 4) Невялікі невад для лоўлі рыбы.

І. Ф. Ваксман.

**ВАЛАСЕ́ВІЧ** Іван Іванавіч [18.8.1909, в. Ціхны Пружанскага пав. Гродзенскай губ. (цяпер Бярозаўскі р-н) — 29.9.1941], Герой Сав. Саюза (1940). У Чырв. Арміі з 1931. Скончыў школу ваен. пілотаў (1932). Служыў на Чарнаморскім і Балтыйскім флатах. Камісар эскадрыллі В. вызначыўся ў сав.-фінляндскай вайне 1939—40. Зрабіў 69 баявых вылетаў, збіў 4 самалёты ворага, знішчыў 7 зенітна-кулямётных пунктаў, каля 60 салдат і афіцэраў, на ст. Койвіста разбамбіў чыг. састаў, станцыйныя і партовыя збудаванні: у складзе авіязвяна атакаваў ледакол. У 1940 вучыўся на Вышэйшых курсах удасканалення каманднага саставу ВПС ВМФ. У Вял. Айч. вайну на фронце з чэрв. 1941. Ваяваў пад Ленінградам, збіў некалькі варожых самалётаў. Загінуў пры выкананні баявога задання. Яго імем названы вуліцы ў в. Ціхны і ў пас. Нафтагорскі Апшэронскага р-на Краснадарскага краю. На доме, дзе нарадзіўся, устаноўлена мемарыяльная дошка.

**ВАЛАСНО́Е ПРАЎЛЕ́ННЕ**, выканаўчы орган саслоўнага сялянскага кіравання *воласцю* ў Расійскай імперыі, у т. л. на Беларусі. Уведзена ў 1797 для дзярж. сялян. Пасля *дзяржаўнай вёскі рэформы 1830—50-х гадоў* выбіралася *валасным сходам* на 3 гады. Спачатку В. п. складалася з *валаснога старшыны* (валаснога галавы), старасты цэнтр. паселішча воласці і пісара. У сувязі са скасаваннем на Беларусі, у Літве і Правабярэжнай Украіне воласці паводле названай рэформы В. п. перасталі існаваць. Пасля *сялянскай рэформы 1861* дзейнічалі пры валасных старшынах і пад іх кіраўніцтвам на землях б. памешчыцкіх, з 2-й пал. 1860-х гадоў — і б. дзярж. сялян. У склад В. п. сталі ўваходзіць памочнікі валаснога старшыны, сельскія старасты, валасныя засядацелі, зборшчыкі падаткаў; пры праўленні быў наёмны валасны пісар. Выконвалі абмежаваныя функцыі: размеркаванне валасных грашовых сродкаў, продаж сял. маёмасці за даўгі, наём і звальненне наёмных службовых асоб воласці. Скасаваны разам з валаснымі сходамі Часовым урадам 21.5(3.6).1917.

*Кр. і літ.* гл. пры арт *Валасны сход*

*В. П. Панюціч.*

**ВАЛАСНЫ́ СТАРШЫНА́**, адміністрацыйная службовая асоба ў Расійскай імперыі, у т. л. на Беларусі; кіраўнік *воласці*. У дзярж. вёсках пасада В. с. існавала з канца 18 ст. Да 1860-х гадоў звычайна называўся валасным галавой. З канца 1830-х гадоў да *сялянскай рэформы 1861* у сувязі са скасаваннем воласці такой пасады на Беларусі не было. Пасля адмены прыгону пасада В. с. ўведзена для б. памешчыцкіх, з 2-й пал. 1860-х гадоў аднаўлена для б. дзяржаўных сялян. Выбіраўся *валасным сходам* спачатку на 2, затым на 3 гады пераважна з ліку «разважных», паслухмяных сялян; выбранне зацвярджалася спачатку палатай дзярж. маёмасцей, потым *міравым пасрэднікам*, пазней *павятовымі па сялянскіх справах установамі*. Пасля замены апошніх земскімі ўчастковымі начальнікамі прызначаўся імі з ліку кандыдатаў, прапанаваных сельскай грамадой. Выконваў адм.-паліцэйскія і гасп. функцыі: сачыў за захаваннем парадку ў воласці, склікаў і распускаў валасныя сходы, наглядаў за старастамі і інш. сельскімі службовымі асобамі, загадваў валаснымі грашовымі сродкамі, назіраў за спраўнай выплатай сялянамі падаткаў, адказваў за ўтрыманне дарог і інш. Меў права пасадзіць селяніна за правіннасць на грамадскія работы або арыштаваць тэрмінам да 2 дзён, аштрафаваць на суму да 1 руб. Пры В. с. і пад яго кіраўніцтвам дзейнічала *валаснае праўленне*. Разам з сельскімі старастамі з'яўляўся асн. апорай улад на вёсцы.

*Кр.*: Полн. собр. законов Российской империи. Собр. 1-е. Т. 24. № 18 082; Собр. 2-е. Т. 13. № 11 189. Т. 36. № 36 657; Собр. 3-е. Т. 9. № 6 196.

*Літ.*: Дружинин Н. М. Русская деревня на переломе, 1861—1880 гг. М., 1978; Ерошкин Н. П. История государственных учреждений дореволюционной России 3 изд. М., 1983. *В. П. Панюціч.*

**ВАЛАСНЫ́ СУД**, ніжэйшы саслоўны сялянскі суд у Расійскай імперыі, у т. л. на Беларусі ў 1861—1917. Уведзены ў ходзе *сялянскай рэформы 1861*. Арганізацыя і дзейнасць В. с. рэгулявалася спачатку «Агульным палажэннем аб сялянах, што выйшлі з прыгоннай залежнасці» ад 19.2.1861, потым «Часовымі правіламі аб валасным судзе ў мясцо-

васцях, у якіх уведзена Палажэнне аб земскіх участковых начальніках» ад 12 7 1889, а таксама мясц. звычаямі. Паводле Агульнага палажэння 1861, В. с. штогод выбіраўся *валасным сходам* у колькасці ад 4 да 12 суддзяў. Пасяджэнні праводзіліся 2 разы на месяц, звычайна па нядзелях, у складзе не менш як 3 суддзяў. Разглядаў цывільна-прававыя спрэчкі сялян па абавязацельствах, здзелках, з-за прычыненай шкоды, спрэчкі аб рухомай і нерухомай маемасці і інш, а таксама адм правапарушэнні, за якія накладваліся штрафы да 3 руб, арышт да 7 дзен, пакаранні розгамі. Рашэнні В. с ў межах яго кампетэнцыі з'яўляліся канчатковымі, але з 1866 маглі быць адменены пав міравым з'ездам (з'ездам міравых суддзяў). Першапачаткова на тэр Беларусі В. с. разглядалі справы на аснове звычаевага права, а судаводства па цывільных справах мела прымірэнчы (трацейскі) характар. За выкананнем рашэнняў В с назіраў *валасны старшына*, але ў дзеянні суда ен не меў права ўмешвацца. Часовыя правілы 1889 (на тэр. Беларусі ўведзены 12 6 1900) змянілі парадак фарміравання і падсуднасць В. с., паставілі яго пад кантроль *земскіх участковых начальнікаў* Паводле правіл, В. с. складаўся з 4 суддзяў, якіх зацвярджаў земскі начальнік з 8 кандыдатаў (выбіраліся сельскімі грамадамі на 3 гады); ен жа мог адхіліць суддзяў ад пасады. Старшыня В с. прызначаўся з ліку суддзяў пав. з'ездам земскіх участковых начальнікаў Паводле правіл 1899, суддзямі В с. маглі быць сяляне-гаспадары не маладзей за 35 гадоў, па магчымасці пісьменныя. Суддзямі не маглі быць сяляне, якія займалі іншыя адм. пасады, а таксама асуджаныя да турэмнага зняволення, цялеснага пакарання і інш. Суддзям выплачвалася ўзнагароджанне. Правілы 1889 перадалі В. с. частку спраў, якія раней разглядаліся міравымі суддзямі грамадз. справы з памерам іску да 300 руб. (акрамя некаторых спрэчак аб праве ўласнасці або валодання), дробныя крымінальныя справы (аб крадзяжах на суму да 50 руб. і інш), некаторыя адм. парушэнні. Павялічылася і мера пакаранняў, што накладаліся В с. (штрафы да 30 руб., арышты да 15 дзен і інш). Скаргі на рашэнні В с. разглядалі земскія начальнікі і павятовыя з'езды земскіх начальнікаў Характэрнымі адзнакамі ў дзейнасці В. с былі іх залежнасць ад мясц адміністрацыі, недасканаласць заканадаўства, непісьменнасць суддзяў. В. с скасаваны пасля Лют. рэвалюцыі 1917

*Кр* Общее положение о крестьянах, вышедших из крепостной зависимости // Российское законодательство X—XX веков В 9 т Т 7 Документы крестьянской реформы М, 1989, Временные правила о волостном суде в местностях, в которых введено Положение о земских участковых начальниках Утв 12 июля 1889 г // Полн собр законов Российской империи Собр 3-е Т 9 № 6196

*Літ* Муравьев Н В Руководство для волостных судов в местностях, где учреждены земские участковые начальники М, 1890, Виленский Б В Судебная реформа и контрреформа в России Саратов, 1969 *Л У Марыскін*

**ВАЛАСНЫ́ СХОД**, распарадчы орган саслоўнага сялянскага кіравання *воласцю* ў Расійскай імперыі, у т. л на Беларусі. Уведзены ў 1797 для дзярж. сялян. Выбіраў на 2 гады *валаснога старшыню* (галаву) і пісара. У сувязі са скасаваннем на Беларусі, у Літве і на Правабярэжнай Украіне воласці пасля *дзяржаўнай вескі рэформы 1830—50-х гадоў* В. с. не склікаліся. Паводле *сялянскай рэформы 1861* уведзены ў еўрап. частцы імперыі для б. памешчыцкіх, з 2-й пал. 1860-х гадоў — аднолькава для б. дзярж. сялян. Складаўся з выбарных сельскіх і валасных службовых асоб (валаснога старшыны, яго памочнікаў, сельскіх старастаў, зборшчыкаў падаткаў, засядацеляў валасных праўленняў, суддзяў валасных судоў) і сялян, выбраных на сельскіх сходах па 1 ад 10 двароў. У зах рэгіенах імперыі ў В с. удзельнічалі таксама батракі па 1 ад 20 (у цэнтр. і зах паветах Беларусі, Літве і на Правабярэжнай Украіне) або ад 10 (у Латвіі і Эстоніі) двароў. Збіраўся 2—3 разы на год з дазволу *міравога пасрэдніка*, потым — *павятовых па сялянскіх справах устаноў*, пазней — *земскага ўчастковага начальніка* Вырашаў адм.-гасп. справы воласці, вызначаў раскладку валасных падаткаў, зацвярджаў прыгаворы сельскіх сходаў і інш. На В. с. выбіраліся валасныя службовыя асобы, прадстаўнікі сялян для выбару гласных на пав. *земскі сход* (у губернях, дзе існавалі *земствы*), на пач. 20 ст.— упаўнаважаныя сялян на выбарах у Дзярж думу. Рашаючую ролю на сходах адыгрывалі заможныя вярхі вескі. В. с. выкарыстоўваліся дзярж.-адм. паліцэйскім апаратам для ўтрымання сялян у падпарадкаванні, спагнання з іх падаткаў. Скасаваны Часовым урадам 21 5(3.6).1917 у сувязі са стварэннем валасных земстваў

*Кр* Полн собр законов Российской империи Собр 1-е Т 24 № 18 082, Собр 2-е Т 13 № 11 189 Т 36 № 36 657

*Літ* Дружинин Н М Государственные крестьяне и реформа П Д Киселева Т 1 М, Л, 1946, Ерошкин Н П История государственных учреждений дореволюционной России 3 изд М, 1983 *В П Панюціч*

**ВАЛАСО́ВІЧ** Канстанцін Адамавіч [21 5(2.6) 1869, в. Ёдчыцы Слуцкага пав Мінскай губ., цяпер Клецкі р-н — 25.9. 1919], прыродазнавец, геолаг, географ і хімік Вучыўся ў Мінскай духоўнай семінарыі. У 1892 скончыў Варшаўскі ун-т За ўдзел у рэв. руху ў 1894 зняволены ў Петрапаўлаўскай крэпасці і Варшаўскай цытадэлі, у 1896—99 у ссылцы ў Архангельскай губ. Там вывучаў чацвярцічныя адклады на Паўн Дзвіне, жывельны свет Белага мора, узначальваў дапаможную санную партыю Рус. палярнай экспедыцыі (1900—02) на Новасібірскія астравы. У 1902—03 лячыўся ў Цюрыху (Швейцарыя), сустракаўся (1903) з У І. Леніным. Калі вярнуўся ў Расію, зноў арыштаваны. Пасля вызвалення апрацоўваў геалагічныя калекцыі, сабраныя Рус. палярнай экспедыцыяй. Заснавальнік чацвярцічнай геалогіі і палеагеаграфіі ПнЗ Еўрап. Поўначы і Якуцкага Запаляр'я. У 1906 склаў геал.-геагр. карту Новасібірскіх астравоў Збярог для навукі шкілет і рэшткі Ляхаўскага маманта — унікальны экспанат Нац. музея гісторыі прыроды ў Парыжы Загінуў у чыг. катастрофе. Яго імем названы мыс на паўн.-ўсх. узбярэжжы в-ва Кастрычніцкай рэвалюцыі ў архіпелагу Паўн. Зямля, выкапневыя расліны і жывелы.

*Літ* Грицкевич В П От Немана к берегам Тихого океана Мн, 1986 С 270—282 *В П Грыцкевіч*

**ВАЛАТО́ЎКІ**, народная назва старажытных курганных могільнікаў Уключаюць т. зв. *доўгія курганы*, а таксама курганныя могільнікі 10—12 ст. (абрад — трупапалажэнне). Найб. пашыраны на Пн Беларусі, у сумежных з ей раенах Смаленшчыны, Пскоўшчыны і ўсх. Латвіі (прыблізны арэал рассялення *крывічоў*). З гэтай назвай звязана ўяўленне пра *волатаў*, відаць, продкаў беларусаў Урочышчы пад назвай В, дзе есць такія курганы, зафіксаваны каля г. п *Друя*, весак *Бельчыцы, Куранец, Ліпск, Малышкі, Пуканаўка*, Бяздзедавічы Полацкага, Валатоўкі Шумілінскага, Верхняе, Зарубчыкі і Мамаі Глыбоцкага, Ёды Шаркоўшчынскага, Забаенне і Стаўбцы Чашніцкага, Іжа Вілейскага, Махіроўка Міерскага, Стараселле Лепельскага, Палессе Мядзельскага р-наў Варыянтамі В. з'яўляюцца назвы Малатоўкі і Калатоўкі (вескі Занарач Мядзельскага р-на, *Ізбішча* і інш). Сярод В сустракаюцца валападобныя насыпы Іх з'яўленне звязана з перыядам, калі на Пн Беларусі і суседніх тэр. рассяляліся славяне, якія асімілявалі мясц. балцкае і угра-фінскае насельніцтва, у выніку чаго ўтварылася групоўка ўсх. славян-крывічоў.

*Літ* Сергеева З М Народные названия курганов на северо-востоке Белоруссии // Древности славян и Руси М, 1988 *Г В Штыхау*

**ВАЛАТО́ЎСКІ** Міхаіл Міхайлавіч, беларускі краязнавец і этнограф 2-й пал. 19 ст Скончыў Магілеўскую духоўную семінарыю (1875), працаваў у ей настаўнікам. Доўгі час жыў на Палессі, вывучаў яго гісторыю, занядкі, побыт і культуру насельніцтва. Уражанні і назіранні выклаў у 17 нарысах, апублікаваных у пецярбургскай газ. «Русский мир» (1875). У артыкулах акрэсліваў межы бел.-ўкр. Палесся, адзначаў захаванне перажыткаў язычніцтва. З пазіцый праваслаўя тлумачыў адсталасць і нізкі культ. ўзровень народа. Даў каштоўныя звесткі пра помнікі архітэктуры, у т л. пра Кімбароўскі кляштар. 6 нарысаў прысвяціў пашырэнню каталіцызму на бел. Палессі, апісаў антыезуіцкія паўстанні ў Мазыры (1581) і Янаве (1657). Перадрукі асобных нарысаў зроблены пецярбургскім час. «Нива».

*Тв* В непогоду (Очерк из жизни Полесья) // Нива 1879 № 6, Полесские

свята: Из очерков Полесья // Там жа. 1880. № 29, 30; Полесские будни // Там жа. 1881. № 2; Полесская поганьщина // Там жа. № 27. *В. К. Бандарчык.*

**ВАЛАХАНО́ВІЧ** Анатоль Іосіфавіч (н. 17.4.1939, Мінск), беларускі краязнавец. Скончыў Мінскі пед. ін-т (1961). З 1961 на пед. рабоце ў Дзяржынскім і Уздзенскім р-нах. З 1968 рэдактар у БелСЭ, з 1975 заг. рэдакцыі грамадскай л-ры выд-ва «Навука і тэхніка». Аўтар прац па гісторыі Дзяржынскага і Клічаўскага р-наў.

*Тв.*: Дзяржынск· Гіст.-экан. нарыс. Мн., 1977; Дзержинск: Ист.-экон. очерк. Мн., 1982; Дзержинщина: прошлое и настоящее. Мн., 1986 (разам з А. М. Кулагіным); Кличевщина: Ист.-экон. очерк. Мн., 1989 (разам з І. І. Саўчанкам).

**ВАЛАХО́ВІЧ** Леанід Ігнатавіч (н. 28.7.1928, в. Лужкі Чашніцкага р-на), беларускі гісторык. Канд. гіст. навук (1963). Скончыў БДУ (1953). З 1957 на кафедры гісторыі КПСС (у 1970—72 заг. кафедры), з 1990 паліт. гісторыі Бел. політэхнічнай акадэміі. Аўтар прац па гісторыі КПБ.

*Тв.*: Партийное строительство в Белоруссии в первые годы нэпа (1921—1924 гг.). Мн., 1962; Идейное и организационное укрепление Компартии Белоруссии (1926—1932). Мн., 1984.

**ВАЛАЧО́БНІЦТВА,** старадаўні звычай беларусаў на першы дзень *Вялікадня* абходзіць гуртам моладзі (валачобнікаў) двары вёскі і віншаваць гаспадароў са святам песнямі, пажаданнямі шчасця сям'і, зычыць дабрабыту ў гаспадарцы. У старажытнасці валачобнікі былі выканаўцамі абраду, накіраванага на стымуляванне ўрадлівасці поля, плоднасці статка, іх чакалі як жаданых гасцей, вестуноў новага гаспадарчага года. Па прыкметах, звязаных з іх прыходам, загадвалі пра будучыню гаспадаркі на ўвесь год. Звычайна гурт валачобнікаў (рэгіянальныя назвы: валачоннікі, валачэднікі, лалоўнікі, кукобнікі, ралёшнікі, ральцавальнікі і інш.) складаўся з 7—12 чал. Узначальваў яго пачынальнік, які звычайна вітаў гаспадароў трохразовым «Хрыстос уваскрос!» і пытаўся дазволу «дом звесяліць». Значную ролю адыгрываў механоша — збіральнік пачастункаў (валачобнага), якімі валачобнікаў адорвалі ўдзячныя гаспадары. У гурце абавязкова былі музыкі: раней дудар і скрыпач, пазней — і гарманіст. Астатнія ўдзельнікі падхоплівалі песню або спявалі прыпеў і таму зваліся падхватнічкамі. В.— з'ява, уласцівая народнай звычаёвасці і абраднасці Беларусі, найб. пашырана ў паўн., усх. і цэнтр. яе частках. У Расіі вядома толькі ў сумежных з Беларуссю раёнах, што некалі ўваходзілі ў склад ВКЛ. На Украіне яно невядома. В. актыўна бытавала на Беларусі да сярэдзіны 20 ст. Дзе-нідзе як веснавая гульня-забава захавалася да нашага часу.

*Літ.*: Романов Е. Р. Белорусский сборник. Вып. 8. Вильна, 1912; Крачковский Ю. Ф. Быт западно-русского селянина. М., 1874; Шейн П. В. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края. Т. 1, ч. 1. Бытовая и семейная жизнь белоруса в обрядах и песнях. Спб., 1887; Нікольскі М. М. Міфалогія і абрадавасць валачобных песень. Мн., 1931; Валачобныя песні. Мн., 1980; Шпилевский П. М. Белоруссия в характеристических описаниях и фантастических поверьях // Пантеон. Спб., 1856. Т. 26, кн. 3; Яго ж. Волочебники в Витебской губернии // Русский дневник. 1859. № 101. *А. С. Ліс.*

**ВАЛАШЧА́НЕ,** валашане, сяляне, жыхары пэўнай валасці. У сярэдневеччы на Беларусі — сяляне-абшчыннікі пэўнай акругі з цэнтрам у *пагосце* (пастаялым двары) ці *валасці* (княжацкі ўдзел або дзярж. землі, што былі ў прыватным уладанні). У 14—16 ст. тэрмін «В.» ўжываўся для вызначэння насельніцтва валасці (у працілегласць гарадскому — *мяшчанам*). У 2-й пал. 16 — пач. 20 ст. В.— сельскае насельніцтва адм.-тэр. адзінак — валасцей.

**ВАЛЕ́ЙКА** Вера Фамінічна [30.8(11.9). 1907, в. Бераставічаны Гродзенскага пав., цяпер Бераставіцкі р-н — 14.11. 1984], удзельніца рэв. і нац.-вызваленчага руху ў Зах. Беларусі. Са студз. 1930 чл. Бераставіцкага райкома КПЗБ. Тады ж арыштавана і зняволена ў Гродзенскую турму. З ліст. 1931 інструктар Беластоцкага акр. к-та, з сак. 1932 — ваен. аддзела ЦК КПЗБ. У ліп. 1932 арыштавана і асуджана на 5 гадоў. Пакаранне адбывала ў віленскай турме Лукішкі, дзе нарадзіла і выхоўвала сына. У 1936—38 чл. Гродзенскага акр. к-та КПЗБ. Пасля далучэння Зах. Беларусі да БССР у вер.— снеж. 1939 старшыня Часовага выканкома на радзіме. У 1940—57 на сав., парт. і гасп. рабоце ў Пінску. Дэпутат Вярх. Савета БССР у 1947—51.

*Тв.*: За кратамі Гродзенскай і Віленскай турмаў // У суровыя гады падполля. Мн., 1958. *В. П. Ласковіч.*

**ВАЛЕ́НЦІК** Дзмітрый Данілавіч [10(23).2.1907, в. Райкова Полацкага пав. Віцебскай губ., цяпер Полацкага р-на — 30.3.1969], Герой Сав. Саюза (1940). Працаваў у роднай вёсцы. У Чырв. Арміі з 1929. Скончыў Арэнбургскую ваенна-авіяц. школу (1933), курсы камандзіраў звенняў пры Барысаглебскай авіяц. школе лётчыкаў (1936). Удзельнік сав.-фінляндскай вайны 1939—40. Эскадрылля пад камандаваннем капітана В. тройчы лятала ў глыбокі тыл ворага на знішчэнне яго апаратыўна-стратэгічнай базы каля Рованіемі, збіла ў паветр. баях 5 знішчальнікаў ворага. У Айч. вайну на Паўд.-Зах., Сталінградскім, Паўд., 4-м Укр. і 3-м Бел. франтах — камандзір палка, зрабіў 115 баявых вылетаў. Да 1955 у Сав. Арміі, палкоўнік. Яго імем названа вуліца ў г. Рэчыца.

**ВАЛЕНЦІНО́ЎСКІ БОЙ 1942** у Вялікую Айчынную вайну, бой партыз. атрадаў «Мсцівец» і «Барацьба» супраць карнікаў каля былой в. Валенцінова Лагойскага р-на ў ліп. 1942. У лесе каля вёскі размяшчалася пляцоўка для прыёму партызанамі грузаў з Вялікай зямлі. Даведаўшыся пра гэта, гітлераўцы вырашылі ліквідаваць яе. У ліп. ў вёску прыбыў карны атрад (да 700 чал.) і пачаў акружаць пляцоўку. Партызаны (больш за 280 чал.) занялі абарону, падпусцілі ворага на блізкую адлегласць і нечакана адкрылі агонь. Карнікі некалькі разоў кідаліся ў атаку, але беспаспяхова. На працягу 3-гадзіннага бою гітлераўцы былі разбіты. Увечары, захапіўшы вял. трафеі, партызаны пайшлі ў Крайскія лясы. *Р. А. Чарнаглазава.*

**ВА́ЛЕЎКА,** вёска ў Навагрудскім р-не, на р. Нёўда, каля воз. Свіцязь. Цэнтр сельсавета. За 16 км на Пд ад Навагрудка, 29 км ад чыг. ст. Наваельня. На скрыжаванні шашэйных дарог Навагрудак — Баранавічы і Наваельня — Карэлічы. 2065 ж., 990 двароў (1992).

Згадваецца ва ўспамінах Ф. М. *Еўлашоўскага* (1602). У 17 ст. вёска належала Курчам. У 1685 падкаморы лідскі С. Курч заснаваў у В. касцёл і кляштар дамініканцаў. Пазней В. перайшла да Незабытоўскіх, якія пабудавалі тут Петрапаўлаўскую царкву, набыла статус мястэчка. З 1795 у складзе Райчанскай вол. Навагрудскага пав. Расійскай імперыі. У 1798 у В. 20 двароў. У 1830 мястэчка канфіскавана царскім урадам. У 1886 у В. 10 двароў, 126 ж., царк.-прыходская школа. У час 1-й сусв. вайны з 1915 вёска акупіравана германскімі войскамі. У 1921—39 В. ў складзе Зах Беларусі знаходзілася ў Польшчы. Ту дзейнічала падпольная ячэйка КПЗБ. З 1939 у БССР, з 15.1.1940 цэнтр *Валеўскага раёна*, з 25.11.1940 цэнтр сельсавета Карэліцкага р-на. У час Вял. Айч. вайны ў чэрв. 1941 — ліп. 1944 вёска акупіравана ням.-фаш. войскамі. Вызвалена Чырв. Арміяй у выніку *Беларускай аперацыі 1944* у ліпені 1944. З 1955 пры сярэдняй школе дзейнічае нар. краязнаўчы музей. З 25.12.1962 В. ў складзе калгаса «Свіцязь» у Навагрудскім р-не. У 1970 — 434 ж., 139 двароў. У вёсцы 2 школы, Дом культуры, 2 аддз. сувязі, бальніца, аптэка. Брацкая магіла сав. воінаў і партызана, помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. Захаваўся помнік архітэктуры 18—19 ст.— Петрапаўлаўская царква. За 4 км ад вёскі курганны могільнік і стаянка позняга палеаліту.

*Літ.*: Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси, издаваемый при управлении Виленского учебного округа. Вильна, 1902. Т. 13. С. 216—218. *В. У. Шаблюк.*

**ВА́ЛЕЎСКІ РАЁН.** Існаваў у 1940 у *Баранавіцкай вобласці*. Утвораны 15.1. 1940. Цэнтр раёна — в. Валеўка. Пл. 600 км². 132 населеныя пункты. Падзяляўся на 14 сельсаветаў: Асташынскі, Валеўскі, Воранчанскі, Вялікакасіцкі, Дальнаруцкі, Запольскі, Карэліцкі, Малюшыцкі, Машэвіцкі, Міратыцкі, Райцаўскі, Руткевіцкі, Цырынскі і Ятранскі. У сувязі з пераносам адм. цэнтра раёна з в. Валеўка ў мяст. Карэлічы 25.11.1940 перайменаваны ў *Карэліцкі раён.*

*Літ.*: Административно-территориальное устройство БССР: Справ. Т. 1. Мн., 1985. *М. І. Камінскі.*

**ВАЛІ́НСКІ** Ежы [1765(?), Паставы — 28.6.1840], беларускі танцоўшчык. Да

1785 прыгонны падскарбія надворнага літ. А. Тызенгаўза. Вучыўся ў яго балетных школах у Гродне і Паставах. У 1785—94 уваходзіў у трупу Т-ва танцоўшчыкаў яго каралеўскай вялікасці ў Варшаве, удзельнічаў у спектаклях у каралеўскім замку і ў Лазенках (летняя рэзідэнцыя караля), на сцэне Нац. тэатра. Танцаваў сольныя партыі ў балетах «Казакі», «Лукас і Калінета», «Каралева Ванда». Выступаў у спектаклях антрэпрыз С. Галніцкага і К. Аўсінскага ў Варшаве, у 1795 працаваў у Гродне, потым зноў у Варшаве: да 1799 у трупах Трускаляскіх і В. Багуслаўскага, у 1800—23 выкладчык танцаў. Памёр у Варшаве. *Г. І. Барышаў.*

**ВАЛІЦКІ** Аляксандр [27.1(8.2).1826, Вільня — 1(13).6.1893], удзельнік грамадскага і культурнага руху на Беларусі ў 1860-я гады. Скончыў Слуцкую гімназію, Маскоўскі (паводле інш. звестак Харкаўскі) ун-т. Вучыўся музыцы ў Слуцку і Вільні, выступаў у канцэртах як спявак, выконваў песні С. Манюшкі. У Мінску заснаваў кнігарню, вакол якой групавалася перадавая інтэлігенцыя. Пад псеўд. Ж а л я з н я к супрацоўнічаў у варшаўскім час. «Ruch muzyczny» («Рух музычны»). Сябраваў з Манюшкам, В. Дунінам-Марцінкевічам, А. Кіркорам (прадстаўляў у Мінску рэдагаваную ім газ. «Kurier Wileński» («Віленскі веснік»), У. Сыракомлем, які прысвяціў В. верш «Аляксандру Жалезняку пасля першага спаткання» (1855). Дапамагаў літоўскаму асветніку М. Акелайцісу ў ажыццяўленні яго выдавецкіх планаў. У пач. 1863 за ўдзел у антыўрадавых дэманстрацыях высланы ў Тамбоў. Пасля працаваў у варшаўскай прэсе, бібліятэкарам і архівістам у бібліятэцы Радзівілаў у Нясвіжы. Збіраў забароненыя творы Сыракомлі, меў намер іх выдаць. Быў блізкі з Я. Лучынам, паэт прысвяціў яму вершаванае пасланне «Пане Аляксандр! З нашай вось умовай...» (1884). У манаграфіі «Станіслаў Манюшка» (Варшава, 1873) прывёў цікавыя звесткі пра супрацоўніцтва кампазітара з Дунінам-Марцінкевічам, у працы «Нашы памылкі ў размове і пісьме...» (1886) — пра ўплыў бел. мовы на польскую. Паводле звестак Р. Зямкевіча, пісаў на бел. мове пад псеўд. Місцюк (у Я. Карскага — Мінщчук). Бел. творы В. не зберагліся. *Г. В. Кісялёў.*

**ВАЛІЦКІ** Міхал (сапр. М і ц к е в і ч; 1746, Навагрудчына — 1828), авантурыст і філантроп. З сям'і дробнага шляхціца. Вучыўся ў мінскіх езуітаў, потым у Магілёве. Працаваў віцэ-рэгентам у судах Мінска. Схільнасць да авантур і прыгод прымусіла В. пакінуць працу і пераехаць у Кракаў. У доме, дзе ён кватараваў, быў більярд, у гульні на якім В. здабыў дасканаласць, як і ў гульні ў карты. Рызыкоўная і маляўнічая гульня В. прыцягнула ўвагу кн. Сапегі, які забраў яго з сабой у Вену. Выйграўшы вял. суму грошай, В. пакінуў Сапегу і з венгерскім кн. Эстэргазі пераехаў у Парыж. Тут ён пазнаёміўся з бел. магнатам К. Весялоўскім, ад якога паступова пераняў дасканалыя манеры паводзін пры двары і грунтоўныя веды ў розных навуках, шмат увагі аддаваў самаадукацыі. Вял. грошы ад картачных выйгрышаў дазволілі В. адкупіць у ваяводы Б. Валіцкага прозвішча і права належаць да роду апошняга. У 1787 В. купіў сабе пасаду падстолія каронnага ў С. Солтыка. У пошуках доступу да франц. каралеўскага двара В. паехаў у Італію, дзе купіў сабе графскі тытул. Пасля вяртання ў Парыж прыняты пры двары караля Людовіка XVI, з дапамогай сваёй каханкі княгіні Паліньяк стаў фаварытам каралевы Марыі Антуанеты. Выкананне сакрэтных даручэнняў каралеўскай сям'і, гульня ў карты пры двары па высокіх стаўках далі В. магчымасць набыць значны капітал у грошах і каштоўнасцях. Пасля вяртання В. ў Рэч Паспалітую яго графскі тытул пацвердзіў кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі. Спачатку В. пасяліўся ў Варшаве, потым пераехаў у Санкт-Пецярбург, дзе здзіўляў вышэйшы свет вял. калекцыяй каштоўных камянёў, дасканалымі манерамі, шыкоўнымі прыёмамі, адукаванасцю і дабрачыннасцю. Пісьменніца дэ Жанліс, уражаная незвычайным сапфірам з калекцыі В., прысвяціла гэтаму каменю аповесць. Верагодна, рызыкоўныя махінацыі з каштоўнасцямі вымусілі В. перабрацца спачатку ў Гродна, дзе яшчэ ў 1793 ён набыў т. зв. палац віцэ-адміністратара, потым у фальварак *Азёры* Гродзенскага пав. Тут В. стварыў узорную гаспадарку, заснаваў суконную і папяровую мануфактуры. Значную частку сваёй калекцыі каштоўных камянёў ён падараваў Віленскаму ун-ту. Пад назвай «калекцыя графа Валіцкага» яна была апісана С. Б. Юндзілам (паводле шэрага гіст. крыніц, пазней захоўвалася ў Эрмітажы). В. зафундаваў навучанне ў Віленскім ун-це сваіх сваякоў па лініі Міцкевічаў і Валіцкіх. Апошнія гады жыцця правёў у Вільні. *І. Г. Трусаў.*

Д. І. Валковіч.

Канцлер ВКЛ Астафі Валовіч.

**ВАЛКО́ВІЧ** Даніла Іванавіч [5(18).4. 1900, в. Занёманск Гродзенскага пав., цяпер у межах г. Масты — 27.11.1937], дзяржаўны і партыйны дзеяч БССР. У час 1-й сусв. вайны эвакуіраваны ў Вяцкую губ. У Чырв. Арміі з 1918. Пасля Кастр. рэвалюцыі ў органах ВЧК — нам. старшыні Малмыжскай пав. камісіі Вяцкай губ. Удзельнік ліквідацыі эсэраўскага мяцяжу на Іжаўскім зброевым з-дзе, ваяваў на Усх. фронце супраць арміі Калчака. З пач. 1920 сакратар павятовага к-та РКП(б). Са жн. 1920 на Зах. фронце, вёў барацьбу з бандытызмам у Бабруйскім і Мазырскім пав. З 1921 заг. аддзела ЦК ЛКСМБ, з 1924 сакратар Койданаўскага, Ляхаўскага (г. Мінск) райкомаў, потым у апараце ЦК КП(б)Б, заг. аддзела Мінскага, сакратар Магілёўскага акр. к-таў партыі, сакратар Клімавіцкага і Бабруйскага райкомаў КП(б)Б. З лют. 1934 нам. наркома земляробства БССР. Са жн. 1934 2-і сакратар ЦК КП(б)Б, з 30 мая па вер. 1937 старшыня СНК БССР. Чл. ЦВК БССР у 1931—37, чл. Бюро ЦК(б)Б у 1934—37. Незаконна арыштаваны ў вер. 1937 па абвінавачанні ў прыналежнасці да «разведкі адной з замежных дзяржаў» і нібыта ў правядзенні «шкодніцкай дзейнасці ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі БССР». Асуджаны 26.11.1937 Ваен. калегіяй Вярх. суда СССР да вышэйшай меры пакарання. Рэабілітаваны ў крас. 1956. Яго імем названы вуліцы ў Гродне і Мастах, калгас у Мастоўскім р-не.

*Літ.:* Я к у т а ў У. Змагар, працаўнік // Полымя. 1966. № 6; Я г о ж. Из когорты первых бойцов // Неман. 1979. № 10.

*У. М. Міхнюк.*

**ВАЛО́ВІЧ** Астафі (Яўстафій) Багданавіч (каля 1520—1587), дзярж. дзеяч ВКЛ. З шляхецкага роду *Валовічаў.* Падстароста берасцейскі (з 1550), пісар ВКЛ (1552—66), дзяржаўца медніцкі (1552—61), маршалак дворны (з 1552), староста магілёўскі (1554—56), азярышчанскі (1563), берасцейскі (1566—87), кобрынскі (1567—87), рэчыцкі (з 1576). Падскарбі земскі (1561—66), падканцлер (1566—79), канцлер ВКЛ (з 1579) і кашталян трокскі (1569—79), віленскі (з 1579). Жанаты з Фядорай Паўлаўнай Сапяжанкай. Некалькі разоў ездзіў паслом у Маскву, у т. л. ў 1553, калі Івана IV не назваў царом. Адзін з лідэраў апазіцыі пры заключэнні *Люб-*

*лінскай уніі 1569.* Разам з інш. магнатамі — праціўнікамі аб'яднання ВКЛ з Каронаю — пакінуў Люблінскі сойм, паслаў на Падляшша і Валынь адозвы з заклікам змагацца супраць уніі. Разам з Янам Геранімам Хадкевічам выступіў супраць кандыдатуры С. Баторыя на каралеўскі трон, быў прыхільнікам абрання аўстрыйскага эрцгерцага Эрнста, але пасля абрання Баторыя перайшоў на яго бок. Адзін з арганізатараў падрыхтоўкі Статута ВКЛ 1566. Паводле веравызнання кальвініст, у канцы жыцця прыхільна ставіўся да антытрынітарызму, падтрымліваў гуманістаў В. Цяпінскага, Якуба з Калінаўкі і С. Буднага. Апошні прысвяціў яму кнігу «Пра апраўданне грэшнага чалавека перад богам» (Нясвіж, 1562). У сваім тастаменце наказаў вызваліць усіх сваіх нявольных і залежных людзей і перадаць іх пад дзярж. юрысдыкцыю.

*Літ.:* Саверчанка І. Астафей Валовіч. (Гіст.-біягр. нарыс). Мн., 1992.

*А. П. Грыцкевіч.*

**ВАЛО́ВІЧ** Міхаіл Казіміравіч [6(18).6. 1806, маёнтак Парэчча Слонімскага пав., цяпер Слонімскі р-н — 21.7(2.8).1833], беларускі рэвалюцыянер, сацыяліст-утапіст. З сям'і слонімскага падкаморага са старадаўняга бел. шляхецкага роду *Валовічаў.* У 1822—25 вучыўся ў Віленскім ун-це, быў блізкі да тайных т-ваў *філаматаў* і *філарэтаў*, сябраваў з І. *Дамейкам,* М. *Ходзькам* і інш. Удзельнічаў у *паўстанні 1830—31* у Польшчы, на Беларусі і ў Літве ў складзе атрада ген. А. Гелгуда. Пасля разгрому паўстання эмігрыраваў у Францыю. Прымыкаў да левага дэмакр. крыла эміграцыі (І. *Лялевель,* С. Ворцаль, Т. Крэмпавецкі і інш.), уваходзіў у склад эмігранцкіх паліт. арганізацый: Нац. польскага камітэта, Т-ва літоўскіх і рус. зямель, Польскага дэмакратычнага т-ва. Крытычна ацэньваў вопыт паўстання 1830—31, якое, на яго думку, не мела «чалавекалюбівай мэты», выказвала інтарэсы толькі шляхты. Прытрымліваўся радыкальных поглядаў на шляхі сацыяльнай перабудовы грамадства. Гал. прычынай нястач і прыгнечання сялянства лічыў буйное памешчыцкае землеўладанне, выступаў за яго ліквідацыю, адмену прыгону і бязвыплатную перадачу зямлі сялянам у калектыўную ўласнасць. Выказваўся за абвяшчэнне Беларусі і Літвы дэмакр. рэспублікай, звязанай федэратыўнымі адносінамі з Польшчай. Сродкам дасягнення дэмакр. і справядлівага грамадскага ладу лічыў сацыяльную рэвалюцыю агульнаеўрап. маштабу. Каб аб'яднаць сілы з рэвалюцыянерамі краін Еўропы, у 1833 уступіў у тайную арг-цыю карбанарыяў. Удзельнічаў у *Заліўскага экспедыцыі 1833* з мэтай узняць паўстанне ў Польшчы, на Беларусі і ў Літве, разглядаючы яго як звяно агульнаеўрап. рэвалюцыі, што рыхтавалася карбанарыямі. Для падрыхтоўкі выступлення ў сак. 1833 у якасці паўстанцкага начальніка Слонімскага і Навагрудскага пав. прыбыў на Беларусь. Вёў агітацыю сярод сялян, імкнучыся прывабіць іх радыкальнай сацыяльна-паліт. праграмай у духу утапічнага камунізму. Стварыў у наваколлі Слоніма невялікі партыз. атрад з сялян, але шырокай падтрымкі насельніцтва не атрымаў. У маі 1833 атрад быў разбіты, В. арыштаваны. Паводле прыгавору ваенна-палявога суда павешаны ў Гродне.

М. Валовіч.

Да арт. Валовічы. Віленскі біскуп Астафі Валовіч.

*Літ.:* Муравьев М. Н. Записки об управлении Северо-Западным краем и об усмирении в нем мятежа, 1863—1866 // Рус. старина. 1883. № 12; Ігнатоўскі У. Увагі да вынікнення беларускага руху // Маладняк. 1926. № 11(2); Мальдзіс А. Падарожжа ў XIX стагоддзе. Мн., 1969. С. 191—194; Мохнач Н. Н. Идейная борьба в Белоруссии в 30—40-е годы XIX в. Мн., 1971. С. 12—18; Sidorowicz-Czerniewska K. Sprawa Emisarjusza Michała Wołłowicza z r. 1833. Grodno, 1934 (Bibljoteka historyczna m. Grodna; T. 2); Społeczeństwo polskie i próby wznowienia walki zbrojnej w 1833 roku. Wrocław etc., 1984.

*В. Ф. Шалькевіч.*

**ВАЛО́ВІЧ** Пётр Міхайлавіч (1880, г. Чэрыкаў — 6.9.1930), удзельнік рэв. руху. Скончыў духоўную семінарыю. З 1898 рабочы ў Адэсе. У 1899 за распаўсюджванне рэв. л-ры арыштаваны і пасля 7-месячнага турэмнага зняволення высланы за межы Херсонскай губ. З 1902 у арміі, вёў рэв. прапаганду сярод салдат у Казані і Арэнбургу, за што ў 1906 арыштаваны і зняволены ў Арэнбургскую крэпасць. За прыналежнасць да Арэнбургскага к-та РСДРП у 1907 засуджаны і сасланы ў Іркуцкую губ. Пасля Кастр. рэвалюцыі 1917 супрацоўнік ВЧК — АДПУ у Чыце.

*Э. А. Карніловіч.*

**ВАЛО́ВІЧЫ**, беларускі шляхецкі род герба *«Багорыя»*, прадстаўнікі якога ў 15—18 ст. займалі дзярж. пасады ў ВКЛ. У 19 ст.— пачатку 20 ст. валодалі маёнткамі ў Гродзенскай, Магілёўскай, Мінскай і Ковенскай губернях. Напачатку вызнавалі праваслаўе, у 16 ст. сярод іх многа прыхільнікаў кальвінізму, з канца 16 ст. перайшлі ў каталіцтва. Тады ж род падзяліўся на некалькі галін. У 1798—1900 адна з іх насіла графскі тытул (згасла). У 19 ст. існавалі 4 галіны В. Родапачынальнік — Ходка (Ходзька, Фёдар), які ў 1-й пал. 15 ст. жыў у Гарадзенскім пав. З яго нашчадкаў найб. вядомыя:

Грынька Ходкавіч (Хадкевіч, або Рыгор Фёдаравіч; ?—?), канюшы ВКЛ (з 1451), гараднічы гарадзенскі (1488—95), намеснік перавольскі (1503). Упершыню названы Валовічам у грамаце 1499. У 1480 унёс уклад у манастыр на Каложы (Гародня).

Багдан Грынькавіч (унук Ходкі; ?—14.4.1539), канюшы гарадзенскі (з 1508), войскі гарадзенскі (з 1529), намеснік крынскі, скідзельскі і азёрскі (з 1537).

Іван Грынькавіч (брат Багдана; ?—?), канюшы трокскі (1536—47).

Лука Грынькавіч (брат Багдана і Івана; ?—?), ключнік гарадзенскі.

Рыгор (Грэгоры) Грынькавіч (брат Багдана, Івана і Лукі; ?—?), маршалак гаспадарскі (1558—69), кашталян навагародскі (1566—85), староста слонімскі (1560—84).

Міхайла Грынькавіч (?—?), дваранін вял. князя ВКЛ. Быў жанаты з дачкою Васіля Варатынца, за якой атрымаў у пасаг некалькі вёсак у Гарадзенскім пав. і ў Літве.

Рыгор (Грыгоры) Багданавіч (?—1577), дваранін вял. князя ВКЛ (1548), староста мсцібаўскі (1558—67), маршалак гаспадарскі (1560—63), пасол у Маскве ў 1563, гараднічы гарадзенскі (1558—66), дзяржаўца эйшышскі, канеўскі, варнянскі, дубіцкі і зэльвенскі (1558—69), лоўчы вял. князя ВКЛ (1566—74), ваявода смаленскі (з 1572), дзяржаўца мерацкі (1569—76).

Рыгор Маркавіч (?—1562), у 1562 прызначаны вял. князем ВКЛ на пасаду праваслаўнага полацкага архіепіскапа, але памёр да пасвячэння.

Астафі (Яўстафій) Багда-

навіч, дзярж дзеяч ВКЛ. Гл. *Валовіч* А.

Геранім (Яраш) Рыгоравіч (сын Рыгора Багданавіча; ?—1636), сакратар каралеўскі, пісар ВКЛ (1589), падскарбі дворны (1600), падскарбі земскі ВКЛ (1605), падканцлер ВКЛ (з 1618), староста генеральны жамойцкі (з канца 1619), прыбліжаны караля Жыгімонта III, староста кобрынскі. У Гародні пабудаваў мост цераз Неман.

Яўстафі (Астафі; ?—1630), вучыўся ў Рыме; канонік віленскі, удзельнік пасольства Рэчы Паспалітай да рымскага папы ў 1595 і інш. пасольстваў. Біскуп віленскі ў 1616—30. З-за вял. тэр. Віленскага біскупства дамогся ўтварэння Бел. арцыдэканіі на чале з біскупам-суфраганам (намеснікам віленскага біскупа). У час яго кіравання пабудавана 26 касцелаў (гал чынам на З Беларусі).

Уладзіслаў (сын Петры, ?—15.9. 1668), дваранін караля Уладзіслава IV. Удзельнік Смаленскай вайны (гл. *Вайна Расіі з Рэччу Паспалітай 1632—34*), трапіў у палон, але рус ваявода Шэін адпусціў яго, каб перадаць каралю просьбу аб заключэнні міру. Пісар польны літоўскі (з 1639), пасол соймавы (1647). У час *Антыфеадальнай вайны 1648—51* на Беларусі замяніў гетмана вял. літоўскага Я. Кішку, які захварэў, узначаліў адзін са шляхецкіх атрадаў, неаднаразова разбіты казакамі і паўстанцамі ў Мазырскім пав. Разам з атрадам зачыніўся ў Слуцку. Выйграў некалькі баёў з сялянска-казацкімі атрадамі пад Валожынам, Рэчыцай, Бабруйскам, Чэрыкавам. У час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* узначаліў войска ВКЛ, у 1658 перамог рус. войска каля Глыбокага У 1659 разбіты войскам князя Хаванскага. Ваяваў таксама супраць шведаў Ваявода віцебскі (з 1655), гетман польны ВКЛ (з 1666).

Вінцэнты Петр (1670—1737), рэферэндарый ВКЛ, дыпламат. З 1728 святар.

Антоні Эразм (24.9.1711—6.7. 1770), канонік віленскі (з 1742), пісар літоўскі і сакратар вял. літоўскі (з 1744), біскуп луцкі і берасцейскі (1755), канцлер каралевы. На соймах выступаў супраць дысідэнтаў.

Андрэй (1750—9.3 1822), вучыўся ў Варшаве і Рыме, займаў розныя духоўныя пасады. У час чатырохгадовага сойму 1788—92 рэферэндарый вял. літоўскі і першы чыноўнік у канцылярыі стражы. У час *Таргавіцкай канфедэрацыі* 1792 адмовіўся ад пасады рэферэндарыя, пасля чаго актыўнай палітычнай і грамадскай дзейнасцю не займаўся З 11.9.1818 біскуп новаўтворанай Куяўска-Калішскай епархіі.

Міхаіл Казіміравіч, удзельнік вызваленчага руху на Беларусі ў 1830-я гады. Гл. *Валовіч* М. К.

*Літ* Niesiecki K Herbarz Polski Lipsk, 1842 T 9 S 414—423, Kojałowicz W W Herbarz rycerstwa Krakow, 1897 S 28—31, Boniecki A Poczet rodow w Wielkiem Księstwie Litewskiem w XV i XVI wieku Warszawa, 1887 S 381—385, Малиновский И Рада Великого княжества Литовского в связи с боярской думой древней России Ч 2, вып 2 Томск, 1912; Мальдзіс А Падарожжа ў XIX стагоддзе З гісторыі бел літ, мастацтва і культуры Мн, 1969 *А П Грыцкевіч*

**ВАЛО́ДЗЬКА** (Wołodźko) Вацлаў Валеры (1831, Мінская губ.—8.4.1904), грамадскі і палітычны дзеяч, удзельнік *паўстання 1863—64*, гісторык, пісьменнік. Вышэйшую ваен. адукацыю атрымаў у Пецярбургу. Служыў капітан-інжынерам у рус. арміі. З канца 1862 у Мінску. У пач. паўстання 1863—64 перайшоў на бок паўстанцаў, удзельнічаў у баях з карнікамі на Міншчыне З 1864 у Турцыі, дзе пад імем Сагі-бея працаваў інжынерам дарог і мастоў. З 1870 жыў у Львове, займаўся навук. і грамадска-паліт. дзейнасцю, пісаў літ. творы. Яго даследаванні «Зыгмунд Серакоўскі — вярхоўны галоўнакамандуючы Жмудзі ў 1863 г.» (1891), «Пярун» і апошнія атрады ў Літве ў паўстанні 1863—1864 г.» З уласных расказаў «Перуна» прысвечаны падзеям на Беларусі і ў Літве ў час паўстання. Найбольшую каштоўнасць уяўляюць яго «Успаміны з паўстання Мінскага ваяводства ў 1863 годзе» (1875), у якіх паказана дзейнасць Мінскай паўстанцкай арг-цыі, характарызуюцца кіраўнікі і ўдзельнікі паўстання К Пялікша, Б. Свентаржэцкі, С. Ляскоўскі, А. Трусаў і інш. У рукапісе засталася праца В. «Паўстанне ў Магілёўскай губерні ў 1863 годзе». Пад псеўд. Вацлаў Кошчыц апублікаваў гіст. раманы і аповесці «Вернутыя да сапраўднай веры» (1877), «Выбраннікі лесу» (1881—82), «Вяшчунскія ваенныя паходні» (1898), «паляўнічыя» апавяданні «З літоўскай пушчы» (1877), у якіх апісаў падзеі 1831 і 1863 на Беларусі і ў Літве, адносіны да іх сялян (некаторыя героі гавораць на бел мове), намаляваў вобразы К. Каліноўскага, Р. Траўгута. Пад псеўд. Сагі-бей выдаў дарожныя нататкі «Усход. Са Стамбула ў Анкару» (1874), «З вандровак па Анатоліі» (1875), раман «Крывавы набытак» (1884), прысвечаны вызв. барацьбе албанскага і македонскага народаў супраць турэцкага панавання. У раманах і аповесцях «Сізіфава праца» (1877), «Змагар лесу» (1883), «Веска для вескі» (1888) і інш. выкрываў згодніцтва буйной шляхты, заклікаў да паляпшэння сял. жыцця.

*Тв* Wspomnienia z powstania wojewodztwa Minskiego w roku 1863 // Polska w walce Krakow, 1875 T 2

*А В Мальдзіс, В Ф Шалькевіч*

**ВАЛО́ДЗЬКА** Іосіф Ігнатавіч (ліст. 1887, в. Гарадзея Навагрудскага пав., цяпер Нясвіжскі р-н — 20.12.1937), дзяржаўны дзеяч БССР. У 1918 сакратар Замір'еўскага падп. падрайкома РКП(б) У 1919 пам. ваенкома ў Навагрудку, ваенком і чл. рэўкома Рагачоўскага пав., у 1920—21 ваенком Гомельскай губ З 1922 старшыня выканкома Магілёўскага павятовага, Бабруйскага раеннага Саветаў. З 1928 нам. наркома земляробства БССР. У 1929—30 старшыня Віцебскага акр, з 1931 Мінскага гар. выканкомаў. У 1933—37 нач. упраўлення сувязі БССР, упаўнаважаны Наркамата сувязі СССР па БССР, з 1937 — па Казахскай ССР. Чл. ЦК КП(б)Б у 1929—37. Чл. ЦВК СССР і ЦВК БССР. Беспадстаўна рэпрэсіраваны за ўдзел у «антысавецкай тэрарыстычнай дыверсійна-шкодніцкай арганізацыі правых» і «антысавецкай арганізацыі ва ўпраўленні сувязі БССР», расстраляны. Рэабілітаваны ў 1957.

**ВАЛО́ДША** (?—?), верагодны ізяслаўскі князь сярэдзіны 12 ст. Упамінаецца ў Васкрасенскім і Іпацьеўскім летапісах. На думку некаторых гісторыкаў (М М. Карамзін, М. П Пагодзін, П. М. Строеў), сын полацкага кн. *Васількі Святаславіча* У 1159 непаўналетнім пасаджаны на княжанне ў Ізяслаўлі са старэйшым братам Брачыславам. Паводле Васкрасенскага летапісу і В. М Тацішчава, у 1159 пасля нападу Глебавічаў на Ізяслаўль В. адпраўлены ў палон у Менск, Брачыслаў закаваны ў жалеза. У 1160 у час паходу на Менск полацкі кн. Рагвалод вызваліў братоў Паводле М. І. Ермаловіча, у «Хроніцы Лівоніі» Генрыха Латвійскага В. ўпамінаецца менавіта пад імем полацкага кн. Вальдэмара, які дазволіў манаху Мейнарду прапаведаваць хрысціянства і паслаў падарункі. Паводле «Хронікі Лівоніі», гэты князь памер у 1216. У 1180 у паходзе на Друцк удзельнічаў Андрэй Валодшыч, магчыма, сын В.

*Літ* Алексеев Л В Полоцкая земля в IX—XIII вв (Очерки истории Северной Белоруссии) М, 1966, Ермаловіч М Старажытная Беларусь Полацкі і новагародскі перыяды Мн, 1990

**ВАЛОЖЫН**, горад, цэнтр Валожынскага р-на, на р. Валожынка. За 75 км на ПнЗ ад Мінска, 17 км ад чыг ст Валожын на лініі Маладзечна — Ліда, на аўтадарозе Мінск — Гродна 11,3 тыс жыхароў (1992).

У пісьмовых крыніцах вядомы з 14 ст. Паводле прывілея вял. князя ВКЛ Вітаўта ў 1407 В. падараваны старосту віленскаму Войцаху Маніваду. Каля 1475 Манівідамі ў В. заснаваны касцел. Паводле падання, потым тут правілі «ўплывовыя дзяржаўныя мужы» князі Валожынскія. Аднак барацьба за велікакняжацкі прастол, у якую былі ўцягнуты 5 братоў Валожынскіх, скончылася для іх трагічна. Вял князь ВКЛ і кароль Польшчы Казімір IV Ягелончык разграміў і пакараў удзельнікаў змовы і перадаў В. з усімі землямі і сялянамі сваіму прыхільніку І Маніваду У 1484 паводле ўказа караля двор і воласць В. перайшлі ва ўласнасць да кн Вярэйскага. У пач. 16 ст. В. валодаў А. Гаштольд З 1507 В у Навагрудскім ваяв, цэнтр Валожынскага староства. З 1542 — уласнасць вял. князя ВКЛ і караля Польшчы Жыгімонта I Старога, з 1543 — яго сына вял. князя ВКЛ і караля Польшчы Жыгімонта II Аўгуста, з 1567 — вял. канцлера ВКЛ Мікалая Радзівіла Рудога. З 1551 В.— мястэчка ў Ашмянскім пав. Віленскага ваяв. У 1614 гетман ВКЛ Крыштоф Радзівіл прадаў маентак В. кашталяну менскаму і жмудскаму Аляксандру Служку У гэты

час мястэчка В. складалася з 3 вуліц і рынку. У 1681 маршалак надворны Юзаф Багуслаў Служка заснаваў у В касцел і кляштар бернардзінцаў (ліквідаваны ў 1864), пры кляштары дзейнічала школа. Каля 1683 у В. заснавана праваслаўнае брацтва. У 2-й пал. 16 — пач. 17 ст. ў В. раз на тыдзень праводзіліся таргі або кірмаш па продажы с.-г і рамесніцкіх тавараў. 83 двары (1690) У канцы 17 — пач. 18 ст. В.— цэнтр староства ў складзе Ашмянскага пав. Віленскага ваяв. У 1710 Служкі пабудавалі ў В. драўляную уніяцкую царкву. У пач. 18 ст. ў В. 107 двароў, 5 вуліц (Віленская, Смаргонская, Менская, Крывая, Тыльная), 2 касцелы і 2 царквы. Пасля смерці Дамініка Служкі (1713) В. кароткі час быў уласнасцю ваяводы полацкага Уладзіслава Даенгофа, з 1730-х гадоў — князёў Чартарыйскіх У 1790 у мястэчку 186 двароў. З 1793 у складзе Расійскай імперыі, у Ашмянскім пав. У канцы 18 ст В зноў валодалі Радзівілы, якія потым прадалі яго Чартарыйскім. У 1803 Адам Чартарыйскі прадаў В. за 100 тыс. злотых старосту вяляціцкаму Юзафу Тышкевічу. У гэты час у мястэчку 2446 жыхароў. У 1806 Ю Тышкевіч заснаваў у В. касцел св. Юзафа. На тэр маентка размяшчаліся сядзібны каменны дом, шматлікія гасп. пабудовы (млын, бровар і інш.), сад, аранжарэя з экзатычнымі раслінамі. У 1806—92 тут дзейнічала яўрэйская духоўная акадэмія (ешыбот), у якой вучылася больш за 400 студэнтаў з Расіі, Англіі, Сірыі і інш. краін Існавалі таксама 2 школы, 3 царквы, сінагога, 3 малітоўныя дамы, аптэка, шпіталь, суконная ф-ка. 4 разы на год праводзіліся кірмашы. У ліп — ліст. 1812 В. акупіраваны французскімі войскамі. У 1-й пал 19 ст. мястэчка В. вядома як цэнтр гандлю жывелай і с.-г. сыравінай. Найб. развіцце атрымалі мукамольная вытворчасць, розныя рамествы, у т. л хатні выраб тканін, адзення, абутку, посуду, гасп. інвентару і інш. Працаваў лесапільны з-д, пабудаваны ў 1850-я гады. У сярэдзіне 1860-х гадоў у В 183 дамы, больш за 2,5 тыс. жыхароў. У 1865 вял. пажар знішчыў у В. больш за 100 пабудоў. З 1870-х гадоў пачало дзейнічаць трохгадовае нар вучылішча, у канцы 19 ст адкрыты яшчэ 2 вучылішчы. Паводле перапісу 1897, у В. 4533 жыхары. У 1903 створана арг-цыя РСДРП, якая найбольш актыўна дзейнічала ў рэвалюцыю 1905—07. У яе склад уваходзіла 30—50 чал. Насельніцтва В. разам з сялянамі навакольных весак удзельнічала ў мітынгах і забастоўках, скіраваных супраць самадзяржаўя У 1-ю сусв. вайну В. стаў прыфрантавым. 19—23.10 (1—5.11).1917 тут праходзіў з'езд дэлегатаў 3-га армейскага корпуса 10-й арміі Зах. фронту. 10(23).11.1917 створаны Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў. З лют. да снеж. 1918 горад акупіраваны германскімі войскамі. У кастр. 1918 сяляне навакольных весак пад кіраўніцтвам бальшавікоў узнялі паўстанне, напалі на ням. атрад у маентку Шапавалы, абяззброілі яго і пайшлі на В, дзе размяшчалася ням камендатура. Частка ням. вайскоўцаў перайшла на бок сялян. На мітынгу ў В. быў абраны рэўком на чале з М. В. Рыдынай, у які ўвайшлі і ням салдаты. Праз 2 тыдні паўстанне было задушана германскімі войскамі. Вясной 1920 В. акупіраваны польскімі войскамі. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 В. у складзе Польшчы, цэнтр Валожынскага пав. Навагрудскага ваяв. У 1921 — 4070 жыхароў, у 1931 — 6269. Тут дзейнічала тэрытарыяльная нелегальная *Беларуская рэвалюцыйная арганізацыя*. У 1924 створаны падп. Валожынскі райком КПЗБ. У 1925—27 дзейнічалі арг-цыі Бел. сялянска-работніцкай грамады. У 1935—39 у В. адбылося 6 забастовак, у якіх удзельнічала каля 6 тыс. чал. У 1920—30-я гады ў В. пераважалі дрэваапрацоўчая і харчовая галіны прамысловасці З 1926 пачала працаваць ням фірма «Когаліт», якая займалася лесапрацоўкамі на тэр. павета. У 1921—39 у В. існавала сямігадовая школа з выкладаннем на польскай мове, была бальніца на 40 ложкаў з адным урачом. У 1939 у В. 6,8 тыс. жыхароў З вер. 1939 В. у складзе БССР, з 15.1 1940 цэнтр Валожынскага р-на. У пач Вял. Айч вайны каля горада жорсткія баі з намнога большымі сіламі працўніка вялі воіны 24-й Самара-Ульянаўскай Жалезнай стралк. дывізіі. 25.6.1941 В. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі ў горадзе і раене 2 тыс чал. У раене дзейнічалі падп. райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ. Горад вызвалены 5.7.1944 воінамі 3-й і 18-й гв. танкавай брыгад, 2-й гв. мотастралк. брыгады 3-га гв. танкавага корпуса 5-й гв. танкавай арміі 3-га Бел. фронту ў ходзе *Вільнюскай аперацыі 1944*. З 20.9.1944 цэнтр раена. З 1945 у В. пачаў працаваць прамкамбінат, у якім былі кавальска-слясарны цэх і майстэрні (кравецкая, шавецкая, па рамонце гадзіннікаў). Пабудаваны смолзавод, маслазавод, хлебапякарня, прамарцель «Перамога». 3.9. 1950 у В. арганізаваны калгас імя Леніна. У 1959 — 4,8 тыс., у 1969 — 5,8 тыс. жыхароў. Пасля скасавання 25.12.1962 Валожынскага р-на В. у Маладзечанскім р-не, з 6.1.1965 зноў цэнтр Валожынскага р-на. Працуюць раенкае аграпрамысловае аб'яднанне, цэх з-да пластмасавых вырабаў, хлебакамбінат, маслаaсырзавод, ільнозавод, машынна-меліярацыйная станцыя, лясгас, камбінат быт абслугоўвання, 19 магазінаў і інш. У горадзе ПТВ механізацыі меліярацыйных работ, 3 сярэднія (у т. л інтэрнат), дзіцяча-юнацкая спартыўная і музычная школы, 6 дашкольных устаноў, Дом культуры, кінатэатр, 2 б-кі, бальніца, паліклініка, гідраметэастанцыя Выдаецца газ. «Працоўная слава». Брацкія магілы сав. воінаў і партызан (сярод пахаваных Герой Сав. Саюза В. В *Шчарбіна*), якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, магілы ахвяр фашызму. Помнікі Шчарбіне; у гонар 50-годдзя сав улады; у гонар 60-годдзя Сав. Арміі; Вызвалення Захаваліся помнікі архітэктуры — палац (1782—1806), касцел св. Юзафа (1806), царква Канстанціна і Алены (1866) Археал. помнік — гарадзішча. В — радзіма бел пісьменніка Старога Уласа (У П. Сівога-Сівіцкага).

Палац у **Валожыне.** З малюнка Н Орды сярэдзіны 19 ст

Касцел святога Юзафа ў **Валожыне.**

*Літ* Берман И Календарь по народным преданиям в Воложинском приходе Виленской губернии Ошмянского уезда Спб, 1874, Хроника Быховца М, 1966, Jankowski C Powiat Oszmianski Petersburg, 1897 Cz 2 S 77—95, Słownik geograficzny Krolestwa Polskiego i innych krajow słowianskich Warszawa, 1893 T 13 S 910—912

*М Б Батвіннік, В У Шаблюк*

**ВАЛО́ЖЫН** Павел Фаміч [н. 25.12. 1914 (7.1.1915), в. Нізок Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Уздзенскага р-на], адзін з арганізатараў і кіраўнікоў камсамольска-маладзежнага падполля і партыз. руху ў Мінскай і Магілеўскай абл. у Вял. Айч. вайну. Скончыў Віцебскі ветэрынарны ін-т (1936). З 1939 заг аддзела Магілеўскага абкома, з 1940 1-ы сакратар Магілеўскага гаркома ЛКСМБ. З ліп 1941 у тыле ворага, з вер. 1941 палітрук роты партыз. атрада імя Катоўскага, з 1.3.1943 да 28.6.1944 сакратар *Магілеўскага падпольнага абкома ЛКСМБ*, упаўнаважаны ЦК ЛКСМБ па зоне Асіповічы — Бабруйск, адначасова ў сак.— маі 1943 сакратар *Бабруйскага падпольнага міжрайкома ЛКСМБ*. З 1944 на сав. і гасп. рабоце. Скончыў ВПШ пры ЦК КПСС (1952). З 1962 нам. міністра сельскай гаспадаркі БССР. У 1969—85 на навук. рабоце. Канд. эканам. навук (1971).

**ВАЛО́ЖЫНСКІ ПАВЕ́Т.** Існаваў у 1921—40 на тэр. Польшчы і Беларусі. Утвораны ў складзе *Навагрудскага ваяводства* паводле пастановы СМ Польшчы ад 4.2.1921. Пл. 3545 км², насельніцтва 98 511 чал. (1919). Цэнтр павета — г. *Валожын.* Уваходзіла 11 гмін (1921) Бакштаўская, Валожынская, Вішнеў-

ская, Волменская (да 1926 у Стаўбцоўскім пав.), Дзераўнянская (з 1926 у Стаўбцоўскім пав.), Івянецкая (да 1926 у Стаўбцоўскім пав.), Іўеўская, Ліпнішская (абедзве з 1926 у Лідскім пав.), Налібоцкая, Палачанская (з 1926 у Маладзечанскім пав.), Пяршайская (да 1926 у Стаўбцоўскім пав.), Седлішчанская (з 1926 у Лідскім пав.), Селішчанская, Суботніцкая (з 1926 у Лідскім пав.). У пач 2-й сусв. вайны В. п. заняты войскамі Чырв. Арміі. У ліст. 1939 уключаны ў склад БССР. З 4.12.1939 павет у складзе Баранавіцкай вобл., 15.1.1940 скасаваны. На яго тэр. ўтвораны *Валожынскі раен*. *М І Камінскі*

**ВАЛОЖЫНСКІ РАЁН.** Размешчаны на З Мінскай вобл. Пл. 1,9 км$^2$, нас. 42,7 тыс. чал. (без г. Валожын, 1992). Цэнтр — г. *Валожын* Паверхню раена займае на У Мінскае ўзвышша, на Пн — адгор'і Ашмянскага ўзвышша, на ПдЗ — Нёманская нізіна і нізіны ўздоўж р. Бярэзіна і Іслач. Рака Бярэзіна з прытокамі Альшанка, Волка, Іслач (з прытокамі Валожынка і Волма); Сакаўшчынскае вадасховішча. Пад лесам 37 %, на ПдЗ — Налібоцкая пушча. Уздоўж Іслачы — зона адпачынку. Праходзіць чыгунка Маладзечна — Ліда, аўтадарогі на Мінск, Ліду, Ашмяны, Маладзечна, Стоўбцы. Раен утвораны 15.1.1940 у Баранавіцкай вобл. 12.10.1940 створаны 21 сельсавет Адамоўскі, Брыльскі, Бурмацкі, Войштавіцкі, Вішнеўскі, Гародзькаўскі, Даўбенскі, Дорскі, Забрэжскі, Ігнатаўскі, Ластаянцаўскі, Лоскаўскі, Ляшчоўскі, Мінцаўскі, Пяршайскі, Румскі, Сакаўшчынскі, Стайкаўскі, Сугваздаўскі, Узбалацкі, Філіпняцкі. У Вял. Айч. вайну тут абарончыя баі з ворагам вялі байцы 24-й Самара-Ульянаўскай жалезнай стралк дывізіі (ген.-маер К. М. Галіцкі). Раён акупіраваны ў канцы чэрв. 1941. Акупацыйны рэжым у нас. пунктах падтрымліваўся пры дапамозе вайск. гарнізонаў, паліцэйскіх участкаў і пастоў. Фашысты знішчылі ў раёне каля 2 тыс. чал. Разам з насельніцтвам знішчаны вескі Козлікі, Янушкавічы, спалена разам з насельніцтвам палавіна в. Доры. Дзейнічалі Валожынскія і Івянецкія падп. райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ; партыз. брыгады «За Савецкую Беларусь», імя Сталіна, імя Чкалава, імя Чапаева, асобныя атрады. Выдавалася падп. газ «Искра». Раен вызвалены часцямі 3-га Бел. фронту ў ходзе Вільнюскай аперацыі 1944. З 20.9.1944 В. р. у Маладзечанскай вобл. 16.7.1954 створаны Багданаўскі сельсавет, ліквідаваны Адамоўскі, Бурмацкі, Войштавіцкі, Ігнатаўскі, Лоскаўскі, Ляшчоўскі, Мінцаўскі, Філіпняцкі сельсаветы; Румскі перайменаваны ў Белакорацкі; 26.7.1957 ліквідаваны Ластаянцаўскі сельсавет; 12.6.1958 Стайкаўскі перайменаваны ў Мінцінскі сельсавет; з 20.1.1960 В. р. у Мінскай вобл., да раена далучаны Гіравіцкі, Пятроўшчынскі, Ракаўскі і Ярашэвіцкі сельсаветы Радашковіцкага р-на. Багданаўскі сельсавет перададзены Іўеўскаму р-ну Гродзенскай вобл.; 26.8.1961 ліквідаваны Гіравіцкі сельсавет; 17.4.1962 да раена далучаны Зарачанскі, Пральніцкі сельсаветы і 24 нас. пункты Валмянскага с/с ліквідаванага Івянецкага р-на і г. п. Івянец; 5.5.1962 Мінцінскі сельсавет перайменаваны ў Валожынскі, Пральніцкі — у Падневіцкі, Брыльскі ліквідаваны, 25.12.1962 В. р. ліквідаваны, яго тэрыторыя далучана да Маладзечанскага р-на, а г п Івянец, Валмянскі, Зарачанскі, Падневіцкі сельсаветы адышлі да Стаўбцоўскага р-на. 6.1.1965 В. р адноўлены, уключаў Белакорацкі, Валожынскі, Вішнеўскі, Гародзькаўскі, Доўбенскі, Дорскі, Забрэжскі, Залескі, Пяршайскі, Ракаўскі, Сакаўшчынскі, Сугваздаўскі, Узбалацкі, Яршэвіцкі сельсаветы Маладзечанскага р-на, г. п. Івянец, Валмянскі, Зарачанскі, Падневіцкі сельсаветы Стаўбцоўскага р-на, Багданаўскі сельсавет (за выключэннем 24 нас. пунктаў) Іўеўскага р-на Гродзенскай вобл. 22.5.1967 створаны Падбярэзскі сельсавет; 12.8.1970 Валмянскі сельсавет перададзены Дзяржынскаму р-ну; 16.8. 1973 Даўбенскі сельсавет перайменаваны ў Бабровіцкі, 1 10.1973 Зарачанскі — у Івянецкі; 29 7 1976 ліквідаваны Белакорацкі сельсавет. На 1.1.1992 раен уключае 435 нас. пунктаў, у т л. г. Валожын, г. п. Івянец, 17 сельсаветаў Бабровіцкі, Багданаўскі, Валожынскі, Вішнеўскі, Гародзькаўскі, Дорскі, Забрэжскі, Залескі, Івянецкі, Падневіцкі, Падбярэзскі, Пяршайскі, Ракаўскі, Сакаўшчынскі, Сугваздаўскі, Узбалацкі, Яршэвіцкі.

У гаспадарцы раена асн. месца займае с.-г. вытворчасць: малочна-мясная жывёлагадоўля, ільнаводства, бураководства, пашыраны пасевы збожжа і бульбы. Тут 16 калгасаў, 7 саўгасаў, племптушказавод, 2 лясгасы. У раёне (без Валожына) 14 сярэдніх, 27 няпоўных сярэдніх, 13 пачатковых школ, 29 дашкольных устаноў, 45 клубных устаноў, 60 бібліятэк, 28 стацыянарных кінаўстановак, 6 амбулаторый, 29 фельчарска-акушэрскіх пунктаў. Выдаецца раенная газ. «Працоўная слава».

У выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС (1986) каля 30 % тэр. раена, у т. л. Налібоцкі заказнік, забруджана радыеактыўнымі элементамі. Узровень радыяцыі перавышае норму ў 102 нас. пунктах, дзе жыве больш за 14 тыс. чал.

У раене найб. значныя археал. помнікі Высокае, Гілікі, Замасцяны, Калдыкі, Камень, Кашчэлічы, Лоск, Лужаны, Ракаў і інш. Брацкія магілы сав. воінаў і партызан (пас. Багданаў, вескі Ракаў, Яцкава-Замосныя і інш.), магілы ахвяр фашызму (вескі Вішнева, Доры, Забрэззе, Задарожжа, Камень, Кражына, Ракаў, Стайкі, Сярэдняе Сяло, Цаюны, Шчаўканы). Устаноўлены помнікі ў гонар камуны (в. Вялікія Крывічы), у гонар парт. ячэйкі (в. Пяршаі), ахвярам фашызму (в. Вуглы), партызанам і Баранавіцкім падп. абкомам КП(б)Б і ЛКСМБ (в. Явідаўшчына, пас Першамайскі), мемар. знак у гонар дзекабрыста А А Бястужава (в Выганічы), мемар. дошка ў гонар друкарні 16 ст (в. Лоск). Помнікі архітэктуры цэрквы — Праабражэнская (1793, в. Ракаў), Казьмадзям'янаўская (1865, в. Вішнева), у весках Лоск (1856), Гародзькі (1866), Забрэззе (1867), Дубіна-Баярская (1868), Славенск (1868—71), Даўбені (1869), Сакаўшчына (1878), Яршэвічы (2-я пал. 19 ст.), Кіявец (1919); касцёлы — Марыі (1637—41, в. Вішнева), Міхаіла (1844, в. Багданава), у весках Ракаў (1906), Пяршаі (пач. 20 ст ), Лоск (1930), рэшткі палаца (канец 19 — пач. 20 ст., в. Рудня); капліцы (1852, в. Падневічы; 2-я пал. 19 ст., в. Ракаў; канец 19 — пач 20 ст., в. Цвіраўшчына; пач. 20 ст, в Дзесятнікі), капліца-пахавальня (2-я

ВАЛОЖЫНСКІ РАЕН

пал. 19 ст., в. Пральнікі); сядзіба (канец 19 — пач. 20 ст., в. Залессе). На тэр. раёна пахаваны бел. паэт, драматург і тэатр. дзеяч В. Дунін-Марцінкевіч (каля в. Падневічы), кампазітар М. Грушвіцкі (в. Ракаў), жывапісец, графік, тэатр. дзеяч і педагог Ф. Рушчыц (в. Багданава), паэтэса К. Буйло (в. Вішнева).

*Літ.:* Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: Мінская вобл. Кн. 1. Мн., 1987. *В. І. Малішэўскі.*

**ВАЛО́КА,** асноўная зямельная мера і адзінка абкладання сялян павіннасцямі ў ВКЛ. На Беларусі існавала з сярэдзіны 16 ст. Памер зямлі на В. пачаўся ў 1540-я гады ва ўладаннях каралевы Боны, пасля прыняцця *«Уставы на валокі» 1557* — у дзярж. маёнтках зах. і цэнтр. Беларусі і Літвы, пазней на землях магнатаў, шляхты і духавенства. У валоданнях многіх дробных землеўладальнікаў памер на В. не праводзіўся.

В. як адзінка вымярэння плошчы ўваходзіла ў сістэму мер ВКЛ, мела 30 маргоў, або 9000 прутоў (21,36 га). В. павінна была складацца з 3 роўных палёў, што адпавядала 3-польнай сістэме земляробства. Часта да палявога надзелу дадавалі 3 маргі на сядзібу і агарод. «Устава на валокі» прадугледжвала В. ў 33 маргі, па 11 маргоў у кожным полі. Пры кепскай зямлі практыкаваліся т. зв. «наддаўкі», і таму памер В. вагаўся ад 30 да 46 маргоў, але ўсе В. абкладаліся аднолькавымі павіннасцямі. Паводле спосабу вымярэння В. былі «прагняныя» (кожнае з 3 палёў было суцэльным) і «маргаваныя» (складаліся з некалькіх розных па плошчы і форме кавалкаў зямлі). У залежнасці ад якасці зямлі В. падзяляліся на добрыя, сярэднія, кепскія і вельмі кепскія. Ад якасці В. залежалі памеры *чыншу*. Паводле ўмоў плацяжу адрознівалі В. цяглыя *(паншчына)*, асадныя (грашовы чынш), вольныя ад павіннасці (даваліся слугбоўцам і вясковай адміністрацыі). Былі В. аселыя (знаходзіліся ў пастаянным карыстанні сялян), прыёмныя, або бакавыя (у часовым карыстанні), пустыя, або непрынятыя (не ўзятыя ў карыстанне). Часта павіннасці накладаліся не на цэлую В., а на створаныя ў яе межах надзелы, якія знаходзіліся ў карыстанні асобных *дымоў* — паўвалочны, трацінны, чвэрці В.

*Літ.* гл. пры арт. *Валочная памера.* *В. Ф. Голубеў.*

**ВАЛО́ЧНАЯ ПАМЕ́РА,** аграрная рэформа ў ВКЛ у 2-й пал. 16 — 1-й пал. 17 ст., комплекс эканам., сацыяльных і тэхн. мерапрыемстваў па ўдасканаленні сістэмы землекарыстання і абкладання сялян феад. павіннасцямі. Праводзілася з мэтай павелічэння даходаў феадалаў. У яе аснове — абмер зямлі на валокі і ўвядзенне іх у якасці гал. адзінак абкладання сялян павіннасцямі. Рэформа выклікана крызісам ранейшай сістэмы абкладання. Адзінкі абкладання, што гістарычна скалаліся ў выглядзе зямлі, *службы*, дворышча і жэрабя, істотна адрозніваліся паміж сабой па наяўнасці вытв. рэсурсаў, асабліва зямельных, колькасці *дымоў* — сял. гаспадарак, якія складалі адну адзінку абкладання. Перадумовай В. п. былі спрыяльныя для феадалаў эканам. і паліт. фактары: адносна высокі ўзровень развіцця прадукц. сіл, рост попыту на с.-г. прадукцыю, у т. л. на збожжа, на ўнутр. і асабліва знешнім рынках, пануючае становішча феадалаў і бяспраўе прыгонных сялян. Задачы В. п. ў гаспадарскіх уладаннях найб. поўна сфармуляваны ва *«Уставе на валокі» 1557* і дапаўненнях да яе 1558. Звесткі аб правядзенні і выніках В. п. ёсць у «Рэестрах памеры валочнай» (захаваліся часткова).

В. п. суправаджалася значнымі сац. пераўтварэннямі. Праверка правоў на зямлю спрыяла поўнаму аддзяленню прывілеяваных саслоўяў ад сялян. Склаўся выразны падзел сялян паводле характару іх галоўных павіннасцей на 3 асн. катэгорыі: *асадныя сяляне, цяглыя сяляне*, сяляне-*слугі*. *Чэлядзь нявольная* ў гаспадарскіх уладаннях была надзелена невял. зямельнымі ўчасткамі і ператворана ў *агароднікаў*. Былі ўтвораны гаспадарча-тэр. адзінкі — войтаўствы на чале з *войтамі*. «Устава на валокі» 1557 адносілася толькі да дзярж. уладанняў, аднак у сваіх уладаннях В. п. феадалы звычайна праводзілі паводле інструкцый, блізкіх да яе. У іх маёнтках нормы павіннасцей з валокі звычайна перавышалі адпаведныя нормы «Уставы на валокі».

У 1530-я гады В. п. першай пачала ажыццяўляць на сваіх землях жонка караля вял. князя літоўскага і польскага Жыгімонта Бона, за ёю — яе сын вял. князь літоўскі і кароль польскі Жыгімонт II Аўгуст і некаторыя, пераважна буйныя, феадалы ў зах. землях ВКЛ. У ходзе В. п. ў гаспадарскіх уладаннях быў выкананы значны аб'ём землеўпарадкавальных работ, ліквідавана цераспалосіца шляхам абмену зямлі. Зведзеныя ў адзін кавалак (абруб) сял. землі былі падзелены на валокі, вызначана якасць глебы (добрая, сярэдняя, кепская і да т. п.). Сялянскія сялібы былі перанесены на сярэдняя палі, хаты размешчаны па адным баку вуліцы, гасп. будынкі — па другім. Устаноўлена новая сістэма відаў і норм павіннасцей з валокі ў адпаведнасці з якасцю глебы. Частка натуральнай даніны і павіннасцей была заменена на грашовыя выплаты. Адну валоку звычайна бралі 2 сям'і асадных або цяглых сялян. Іншыя ўгоддзі, як і раней, заставаліся ў агульным уладанні і карыстанні сельскіх абшчын.

У 1560 на аснове спец. уставы была праведзена рэформа сістэмы землекарыстання і абкладання феад. павіннасцямі гаспадарскіх сялян-*даннікаў* у Падняпроўскіх валасцях. У якасці асн. адзінкі абкладання была ўведзена служба — надзел ворыва плошчай з валоку. Пры гэтым памеры надзелу, якасць глебы найчасцей вызначалася без інструментальнага вымярэння, прыблізна. Улічвалася таксама наяўнасць, колькасць і якасць іншых угоддзяў, што знаходзіліся ў карыстанні сельскіх абшчын. На час правядзення В. п. тут яшчэ не існавала паншчыны і сяляне плацілі за карыстанне зямлёю пераважна грашыма і збожжам у памерах, вызначаных рэвізорамі. У дзярж. валасцях усх. Беларусі В. п. праведзена ў канцы 16 — 1-й пал. 17 ст. У 1569 з мэтай павелічэння дзярж. скарбу паводле «навукі» (інструкцыі) пачалася новая рэвізія стану гаспадарскіх уладанняў. Такія рэвізіі неаднаразова праводзіліся і пазней.

В. п. выклікала масавае супраціўленне сялян, якія пратэставалі супраць высокіх норм абкладання і пераводу іх у катэгорыю цяглых падданых. Асноўнай формай супраціўлення была адмова прымаць валокі паводле вызначаных павіннасцей. Некаторыя сяляне ўцякалі ў маёнткі іншых феадалаў. Пратэст сялян феадалы гасілі не толькі рознымі ўступкамі, але і грубым прымусам. У выніку В. п. значна ўзмацнілася феад. эксплуатацыя сялян, найперш за кошт павелічэння норм павіннасцей. Нармалізацыя відаў і норм зямельнай рэнты ў значнай ступені уніфікавала эксплуатацыю. Гэта прывяло да далейшага ўзмацнення рэжыму прыгоннага права ў ВКЛ. В. п. была адным з найважнейшых этапаў у працэсе развіцця сістэмы феад. эксплуатацыі сялянства, на стагоддзі вызначыла істотныя рысы агр. ладу ў ВКЛ.

*Літ.:* Довнар-Запольский М. В. Берестейское староство в XVI в. // Университетские изв. (Киев). 1898. № 2; Его ж. Государственное хозяйство Великого княжества Литовского при Ягеллонах. Киев, 1901. Т. 1. С. 292—318; Его ж. Очерки по организации западно-русского крестьянства в XVI веке. Киев, 1905. С. 157—286; Пичета В. И. Аграрная реформа Сигизмунда-Августа в Литовско-Русском государстве. 2 изд. М., 1958; Его ж. Белоруссия и Литва XV—XVI вв. М., 1961; Похилевич Д. Л. Землеустройство и поземельный кадастр в Белоруссии, Литве и Украине в XVI—XVII вв. // Материалы по истории земледелия СССР. М., 1952. Сб. 1; Зеленецкая В. Н. Землеустроительная политика второй половины XVI в. в Белоруссии и Литве и положение различных разрядов сельского населения // Тр. ист.-арх. ин-та. М., 1947. Т. 3; Улащик Н. Н. Кобринская экономия после проведения волочной померы // Уч. зап. Ин-та славяноведения. М., 1957. Т. 15; Ochmański J. La grande réforme agraire en Lituanie et en Ruthenie Blanche au XVI-e siecle // Kwartalnik historii kultury materialnej. 1960. T. 8, № 2; Fascicule supplementaire. Ergon. Vol. 2. 1960. P. 327—342; Kosman M. Pomiara włóczna na Polesiu pińskim // Roczniki Dziejów Społecznych i Gospodarczych. Poznań, 1970. T. 31; Kolankowski L. «Pomiara włóczna» // Ateneum Wileńskie. 1927. R. 4, z. 13; Conze W. Agrarverfassung und Bevölkerung in Litauen und Weißrußland I. Teil. Die Hufenverfassung im ehemaligen Großfürstentum Litauen. Leipzig, 1940. *М. Ф. Спірыдонаў.*

**ВАЛО́ШКА** Іван Раманавіч [24.9(6.10).1898, в. Рачкі Брэсцкага пав., цяпер Жабінкаўскі р-н — 3.2.1966], удзельнік рэв. руху ў Зах. Беларусі. З 1921 працаваў у Брэсце дворнікам і вартаўніком у купца. У 1923 уступіў у КПЗБ. На складзе, што знаходзіўся ў падвале дома, арганізаваў тайнік нелегальнай л-ры. З канца 1925 тут працавала падп. друкарня ЦК КПЗБ. В. ўдзельнічаў у стварэнні друкарні і распаўсюджванні нелегальнай л-ры. Дзякуючы строгай канспірацыі збярог друкарню да далучэння Зах. Беларусі да БССР і ў кастр. 1939 перадаў яе палітаддзелу Брэсцкага пагранатрада.

У Вял. Айч. вайну быў сувязным партыз. атрада імя Фрунзе брыгады імя Сталіна Брэсцкай вобл. Пасля вайны працаваў у Брэсце ў дзяржбанку. *В. П. Ласковіч.*

**ВАЛО́ШЫН** Павел Пятровіч [28.6(10.7). 1891, в. Гаркавічы Сакольскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Беластоцкае ваяв., Польшча — 3.11.1937], дзеяч нац.-вызв. руху ў Зах. Беларусі. У 1908—12 працаваў у Крынкаўскай паштова-тэлеграфнай канторы. З 1912 у арміі. У 1-ю сусв. вайну быў паранены, трапіў у ням. палон. Пасля Кастр. рэвалюцыі 1917 у Екацярынаславе служыў міліцыянерам пры ўпраўленні чыгункі. Са жн. 1919 у дзянікінскай арміі, потым у атрадзе Р. І. Катоўскага, інш. часцях Чырв. Арміі. У 1920 трапіў у палон да пятлюраўцаў. Пасля вызвалення служачы на Екацярынаслаўскай чыгунцы. У 1922 вярнуўся на радзіму, працаваў у сельскай гаспадарцы, вёў рэв. агітацыю. Уваходзіў у *Беларускую сацыял-дэмакратычную партыю*, потым у Бел. партыю незалежных сацыялістаў. У 1923 уключаны ў спіс кандыдатаў у паслы польскага сейма па выбарчым бюлетэні нац. меншасцей. З 31.7.1923 пасол сейма, адначасова чл. *Беларускага пасольскага клуба*, адзін з заснавальнікаў *Беларускай сялянска-работніцкай грамады* (БСРГ) і член яе ЦК у 1926—27. У сейме ўдзельнічаў у абмеркаванні праектаў законаў пра парцэляцыю і асадніцтва, адбудову знішчаных вайной будынкаў і інш. Арганізатар і ўдзельнік рэв. мітынгаў у Беластоку, Гродне, Алекшыцах, Індуры, Крынках, Лунне, пав. з'ездаў БСРГ у Гродне (вер. 1926), Саколцы (ліст. 1926), в. Старабяразова Бельскага пав. (снеж. 1926) і інш. Прымаў удзел у рабоце Цэнтр. міжпарт. сакратарыята па барацьбе за амністыю палітвязням. Чл. КПЗБ з 1926. У час разгрому БСРГ у лют. 1927 арыштаваны і па *працэсе 56-і* прыгавораны да 12 гадоў турмы. Пакаранне адбываў у турмах Лукішкі, Вронкі, Равічы. У выніку абмену палітвязнямі з 1932 у СССР. Выступаў з лекцыямі і прамовамі ў Маскве, Ленінградзе, Пяцігорску, Днепрапятроўску. З сак. 1933 жыў у Мінску. Працаваў адказным сакратаром у ЦК МАДР БССР, пам. дырэктара Бел. дзярж. б-кі імя У. І. Леніна, у Бібліяграфічным ін-це пры гэтай б-цы, займаўся грамадскай дзейнасцю. 1.9.1933 арыштаваны органамі НКУС па сфабрыкаванай справе *«Беларускага нацыянальнага цэнтра»*. Абвінавачваўся ў тым, што з'яўляўся чл. контррэвалюцыйнай арг-цыі, якая ставіла мэту скінуць сав. ўладу і ўстанавіць бел. бурж. рэспубліку. 9.1.1934 «чацвёркай» калегіі АДПУ БССР прыгавораны да вышэйшай меры пакарання, замененай 10 гадамі лагераў на Салаўках. 9.10.1937 Асобай тройкай УНКУС Ленінградскай вобл. прыгавораны да расстрэлу. Расстраляны 3.11.1937. Пасмяротна рэабілітаваны па абодвух прыгаворах ваен. трыбуналам Бел. ваен. акругі 18.4.1956.

П. П. Валошын.

*Літ.:* Бергман А. Павел Валошын // Беларускі каляндар на 1983 год. Беласток, 1983. *Я.І. Мікула, У.М.Міхнюк*

**ВАЛЫНЕ́Ц** Андрэй Іванавіч [6(19).1. 1904, в. Жаўткі Вілейскага р-на — 30.3.1965], адзін з арганізатараў і кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху на тэр. Вілейскай вобл. ў Вял. Айч. вайну. Герой Сав. Саюза (1944). Удзельнік рэв. руху ў Зах. Беларусі, за што ў 1935—39 зняволены ўладамі Польшчы ў турму ў Вільні. Напярэдадні Айч. вайны дырэктар торфапрадпрыемства ў в. Жаўткі. З ліп. 1941 адзін з арганізатараў *Вілейска-Куранецкага патрыятычнага падполля*. Вясной 1942 стварыў і ўзначаліў партыз. групу, якая пераўтворана ў атрад «За Савецкую Беларусь», у кастр. 1943 — ліп. 1944 яго камандзір, з чэрв. 1944 камандзір партыз. брыгады «За Савецкую Беларусь», адначасова з крас. 1944 чл. Вілейскага падп. гаркома КП(б)Б. Пад яго кіраўніцтвам у Куранецкім, Смаргонскім, Маладзечанскім р-нах была створана сетка антыфаш. падп. арг-цый. Пасля вайны нам. старшыні Вілейскага, Маладзечанскага райвыканкомаў, старшыня Вілейскага гарвыканкома, заг. аддзела Маладзечанскага аблвыканкома. Яго імем названы вуліцы ў Вілейцы і Маладзечне. У Маладзечне пастаўлены помнік, устаноўлена мемарыяльная дошка.

А. І. Валынец.

**ВАЛЫНЕ́Ц** Флягонт Ігнатавіч [27.12. 1878(8.1.1879), г. Вілейка — 3.11.1937], дзеяч рэвалюцыйнага і нац.-вызв. руху ў Зах. Беларусі. Скончыў курсы па падрыхтоўцы нар. настаўнікаў пры Свянцянскім нар. вучылішчы (1900). Працаваў на цагельным з-дзе ў Вілейцы, плытагонам на Нёмане, настаўнікам у Трокскім пав., Мусніккскім нар. вучылішчы ў Віленскім пав. У 1908 за паліт. ненадзейнасць пазбаўлены права выкладання. Працаваў страхавым агентам. У 1916—17 на ваен. службе ў Мінскай каравульнай камандзе, нам. старшыні салдацкага к-та, чл. Мінскага Савета. З ліст. 1917 гар. галава Вілейкі, з лют. 1918 старшыня гарсавета. У час германскай акупацыі насельніцтва Вілейкі выбрала яго бургамістрам горада. Неаднаразова арыштоўваўся польскімі ўладамі. У 1922—28 працаваў у сельскай гаспадарцы, грузчыкам на чыгуначнай станцыі, вартаўніком. У 1926—27 чл. Вілейскага пав. к-та Бел. сялянска-работніцкай грамады, у 1928—29 старшыня Вілейскай акр. управы, са снеж. 1927 чл. Гал. управы Т-ва бел. школы. У 1928 і 1930 быў выбраны дэп. польскага сейма па спісе беларускіх сялян і рабочых. Адзін з кіраўнікоў рэв. арг-цыі *«Змаганне»*. Пасля роспуску сейма 30.8.1930 арыштаваны польскімі ўладамі і прыгавораны да 16 гадоў катаргі. Чл. КПЗБ з 1932. У выніку абмену паліт. зняволенымі 15.9.1932 пераехаў у Мінск. Працаваў у Наркамаце камунальнай гаспадаркі БССР. 31.8.1933 арыштаваны органамі АДПУ Беларусі па абвінавачанні ў прыналежнасці да «контррэвалюцыйнай, паўстанцкай і дыверсійна-шпіёнскай арганізацыі» — *«Беларускі нацыянальны цэнтр»*. 9.1.1934 «чацвёркай» калегіі АДПУ Беларусі прыгавораны да расстрэлу, замененага 10 гадамі лагераў на Салаўках. 9.10.1937 Асобай тройкай УНКУС Ленінградскай вобл. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання за «злачынствы» па справе БНЦ. Рэабілітаваны пасмяротна па абодвух прыгаворах ваен. трыбуналам Бел. ваен. акругі ў 1956. *У. М. Міхнюк.*

**ВАЛЫНЕ́ЦКІ РАЁН.** Існаваў у БССР у 1924—29. Утвораны 17.7.1924 у складзе *Полацкай акругі*. Цэнтр — мяст. Валынцы. Пл. 833 км$^2$, 558 населеных пунктаў, нас. 28 766 чал. (на 1.1.1925). Падзяляўся на 9 сельсаветаў: Боркавіцкі, Валынецкі, Галубаўскі, Дзёрнавіцкі, Замшанскі, Кушлікаўскі, Луначарскі, Прудзінкаўскі, Юзафоўскі. У сувязі з пераносам адм. цэнтра раёна з мяст. Валынцы ў мяст. Боркавічы 9.3.1929 перайменаваны ў *Боркавіцкі раён*. *М. І. Камінскі.*

**ВАЛЫ́НСКАЯ ЗЯМЛЯ́,** Валынь, гістарычная вобласць у бас. верхняга цячэння Зах. Буга і Прыпяці з яе правымі прытокамі. Назву атрымала ад г. Валынь (Вялынь), які быў яе цэнтрам. У 8—9 ст. на В. з. жылі *валыняне* і *бужане*. Першым князем з дынастыі *Рурыкавічаў* тут быў Усевалад, сын Уладзіміра Святаславіча. З 10 ст. на В. з. былі гарады Уладзімір, Луцк, Холм, Белз, Бужск

(Бугск), Турыйск, Чартарыйск, Ратна, Астрог і інш., утварылася *Уладзіміра-Валынскае княства.* З канца 10 ст. княства знаходзілася ў некаторай залежнасці ад Кіеўскай Русі, у сярэдзіне 12 ст. адасобілася ад Кіева. У барацьбе з буйнымі феадаламі ўладзіміра-валынскаму кн. *Раману Мсціславічу* ўдалося ўмацаваць княжацкую ўладу і аб'яднаць удзельныя княствы, а ў 1199 падначаліць Галіцкае княства і ўтварыць *Галіцка-Валынскае княства.* З сярэдзіны 12 ст. пад уладай валынскіх князёў знаходзілася і *Берасцейская зямля* У канцы 1240 мангола-татары разрабавалі і спустошылі многія гарады В з. Валынь трапіла ў залежнасць ад Залатой Арды. Пасля 1340-х гадоў В. з. ўключана ў ВКЛ У сярэдзіне 14 ст. пачалася барацьба паміж Польшчай, Венгрыяй і ВКЛ за Валынь і Галіччыну; Польшча захапіла Галіцкія землі (1349), Зах. Валынь з гарадамі Холм і Белз (1377). У 1340—82 на Валыні княжыў Любарт, сын *Гедзіміна;* з 1380-х гадоў В з. пад уладай *Вітаўта,* потым *Свідрыгайлы* Вял князі Літоўскія далі В. з. ўстаўныя граматы (каля 1427, у 1501, 1509, 1547), якія вызначалі яе ўнутр. будову, абараняли правы і прывілеі валынскай шляхты. Паводле *Люблінскай уніі 1569* В. з далучана да Польшчы («Кароны») у складзе Валынскага ваяводства. У выніку 2-га (1793) і 3-га (1795) падзелаў Рэчы Паспалітай Валынь далучана да Расійскай імперыі.

*Літ* Андрияшев А М Очерк истории Волынской земли до конца XIV столетия (с картой Волынской земли) Киев, 1887, Филевич И П Борьба Польши и Литвы-Руси за Галицко-Владимирское наследие Ист очерки Спб, 1890, Пашуто В Т Очерки по истории Галицко-Волынской Руси М, 1950, Ипатьевская летопись // ПСРЛ 2 изд М, 1962 Т 2

*С А Шчарбакоў*

**ВАЛЫ́НСКІ КАРО́ТКІ ЛЕ́ТАПІС,** помнік усходнеслав. летапісання позняга сярэднявечча. Збярогся ў Супрасльскім гіст зборніку пач. 16 ст. (гл ў арт. *Супрасльскі рукапіс*), пісаным паўуставам. Яго першую і большую частку складае скарочаны агульнарускі летапісны звод, блізкі да *Аўрамкі летапісу,* але даведзены толькі да 1382 (заканчваецца летапісным аповесцю пра ўзяцце Масквы Тахтамышам). Другая частка зборніка, названая М. М. Улашчыкам «Валынскі кароткі летапіс», змяшчае кароткую выбарку пагадовых звестак кіеўскага, наўгародскага, маскоўскага і мясцовага паходжання па гісторыі Русі (з 862), ВКЛ (14 — пач. 16 ст.) і Смаленска. Найб каштоўныя ў ім заключныя арыгінальныя звесткі, што датычаць паліт гісторыі Літоўска-беларускай дзяржавы. Храналагічна ахоплівае падзеі да 1514 уключна.

Асабліва падрабязна апісаны разбуральныя напады крымскіх татар на *Валынскую зямлю.* Летапіс завяршаецца ўзнеслай «Пахвалой гетману Канстанціну Астрожскаму», у якой кніжнай мовай з выкарыстаннем літ. вобразаў апяваецца яго перамога над маскоўскім войскам у *Аршанскай бітве 1514*

Ф І Валынец.

Літоўска-беларускія воіны, піша аўтар, «уподобилися есте своим мужеством храбрым макидоняном.., храбрым рыцерем славного града Родоса» Гал. героя ен параўноўвае з Антыехам, палкаводцам Аляксандра Македонскага, індыйскім царом Порам і армянскім Тыгранам. Як сведчаць агульны характар усяго Супрасльскага зборніка, а таксама змест, мова і стыль яго заключных арыгінальных запісаў, насычаных царкоўнаславянізмамі, архаічнымі формамі і зваротамі, цытатамі з рэліг. твораў, гэта летапісная кампіляцыя ўзнікла ў асяроддзі праваслаўнага, патрыятычна настроенага бел.-укр. духавенства. Відаць, асноўная, агульнарус. частка летапіснага зводу была ўкладзена ў Смаленску, пасля перавезена ў Супрасль, дзе дапоўнена арыгінальнымі звесткамі па гісторыі ВКЛ, у т. л. Валыні, і «Пахвалой гетману Канстанціну Астрожскаму». Пазней у зборніку рабіліся розныя запісы прыватнага і гіст. характару, у т. л. пра наведанне ў 1543 будучым вял. князем ВКЛ Жыгімонтам II Аўгустам Супрасльскага манастыра, дзе гэты рукапіс і захоўваўся да канца 18 ст. Цяпер зберагаецца ў Цэнтральным дзярж. архіве старадаўніх актаў (Масква). Упершыню апублікаваны ў 1836 г. М. А. Абаленскім.

*Публ* Супрасльская рукопись, содержащая Новгородскую и Киевскую сокращенные летописи М, 1836 С 127—155, Полное собрание русских летописей Т 35 Летописи белорусско-литовские М 1980 С 118—127

*Літ* Тиховский Ю Так называемая «Краткая Киевская летопись» // Киевская старина 1893 Т 42, № 9; Арнаутов В А «Киевская» летопись Супрасльского сборника (К вопросу о смоленском летописании) // Изв Отд-ния рус языка и словесности 1909 Спб, 1910 Т 14, кн 3

*В А Чамярыцкі*

**ВАЛЫ́НСКІЯ** (муж і жонка), рэвалюцыянеры.

Сяргей Аляксеевіч [парт. псеўд. Барыс, 7(19) 5.1874, г. Шчыгры Курскай губ.— ?]. З дваран. У 1894—98 вучыўся ў Маскоўскім ун-це, з якога выключаны за рэв. дзейнасць. Жыў у Курску пад наглядам паліцыі. Разам з жонкай арганізаваў гурток, наладзіў выпуск і распаўсюджванне лістовак і інш л-ры, дасылаў карэспандэнцыі ў газ. «Искра». Скончыўшы ў 1903 ун-т, пераехаў у Мінск, дзе працаваў пам. юрысконсульта на Лібава-Роменскай чыгунцы. Чл. РСДРП з 1903 Далучыўся да Мінскай групы РСДРП, увайшоў у гурток М. М. *Кузняцова,* вёў агітацыйную работу сярод чыгуначнікаў. Пасля *Курлоўскага расстрэлу 1905* увайшоў у склад *Мінскага Кааліцыйнага Савета,* які рыхтаваў новую забастоўку чыгуначнікаў, каб зрабіць яе часткай Усерасійскай паліт стачкі У снеж. 1905 дэлегаваны Мінскім к-там чыг саюза ў Маскву на канферэнцыю чыгуначнікаў. Пасля вяртання ў Мінск у ноч на 8 снеж. арыштаваны У маі 1906 вызвалены пад залог і ад актыўнай паліт. дзейнасці адышоў, але рэвалюцыянерам дапамагаў. У пач. 1-й сусв. вайны адышоў ад бальшавікоў. У 1917 уступіў у Маскоўскую арг-цыю меншавікоў, аднак у 1920 парваў і з імі. Падаваў заяву аб уступленні ў ВКП(б), але прыняты не быў Да 1933 працаваў юрысконсультам у Маскоўскім Саюзе металістаў.

Вера Ільінічна [парт. псеўд Марфа; 1(13).2.1878, в. Гусарка Канстанцінаградскага пав. Палтаўскай губ, цяпер Краснаградскі р-н Харкаўскай вобл.— ?]. З дваран. Скончыла Харкаўскую гімназію (1897), вучылася на фельчарскіх курсах у Маскве. У рэв. дзейнасць уключылася ў Курску. Чл. РСДРП з 1904 У Мінскай групе РСДРП была памочніцай Кузняцова па сувязях з друкарняй, выконвала абавязкі сакратара і касіра. Пасля Курлоўскага расстрэлу разам з жонкай К. А *Петрусевіча* арганізавала к-т дапамогі параненым Калі амаль усе члены Мінскага кааліцыйнага савета былі зняволены ў турму, наладзіла друкаванне і распаўсюджванне лістовак, адозваў і інш. матэрыялаў, якія перадаваў ей з турмы С. А. Валынскі. Пра лес В. пасля 1933 звесткі не выяўлены. Магчыма, яны сталі ахвярамі рэпрэсій. У Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі захоўваюцца іх успаміны пра рэвалюцыю 1905.

*Н В Назарава*

**ВАЛЫ́НСКІЯ ВЕ́ЖЫ,** умоўная назва манументальных абарончых вежаў, якія будаваліся ў 2-й пал. 13—14 ст. на Валыні, Беларусі і ў Польшчы. Былі цэнтрамі абароны буйных населеных пунктаў, камандным пунктамі і ўмацаваным жыллем феадала У плане прамавугольныя ці круглыя, адпавядалі тактыцы абароны і метаду аблогі актыўным штурмам пры дапамозе каменекідальных машын, арбалетаў, а з 15 ст. і бамбардаў На Беларусі да В. в. адносяцца Брэсцкая вежа, Гродзенская вежа-стоўп, Навагрудскія вежы на Малым замку і замку, *Камянецкая вежа, Тураўская вежа* і інш. Тэрмін «В. в.» ўвеў у навук. ўжытак П. А. Рапапорт пасля вывучэння вежаў на тэр. *Валынскай зямлі.*

*Літ* Раппопорт П А Волынские башни // Материалы и исследования по археологии СССР М, 1952 № 31, Тка-

чоў М. А. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII—XVIII ст. Мн., 1978. *М. А. Ткачоў.*

**ВАЛЫНЯ́К** (Wołyniak; сапр. Гіжыцкі Ян Марэк Антоні; 7.5.1844, Міхнаўцы на Валыні — 27.6.1925), гісторык каталіцкай царквы ў ВКЛ. У 1865—66 вучыўся ў Адэскім ун-це, скончыў Дэрпцкі ун-т (1870). Працаваў настаўнікам гімназіі ў Дэрпце, з 1878 у Мітаве. З 1895 у адстаўцы, выхоўваў кн. Вітальда Чартарыйскага. Пасля жыў у Кракаве, займаўся гістарычнымі доследамі, карыстаючыся ў асноўным архівамі кляштараў. Пісаў пра школьніцтва: «Нататка пра Акадэмію і школы езуітаў у Полацку» (1884), «Спіс школ Гродзенскай губерні на пачатку XIX ст.» (1885), «Некалькі слоў пра дзве даўнія школы на Падляшшы» (1888), «Базыльянская павятовая школа ў Вільні ў кляштары св. Тройцы» (1894), «Пра школу Кейданскую ў XIX ст.» (1896). Даследаваў гісторыю манаскіх ордэнаў: «Базыльянскі кляштар у Ладах на Белай Русі» і «Базыльяне на Жмудзі» (1891), «Уніяты ў Курляндыі» (1894), «Успаміны пра Баруны і уніятаў у Ашмянскім пав.» (1897), «Пра базыльян у Гумане» (1899), «Кляштары кармелітак босых у Польшчы, Літве і Русі» (1902), «З мінулага базыльянскага ордэна на Літве і Русі» (1904), «Спіс кляштараў уніяцкіх базыльян у Валынскім ваяводстве» (1905), «Спіс абатаў базыльянскіх у Гродне» (1905), «Базыльянскія уніяцкія кляштары ў беларускай правінцыі» (1907), «Паведамленне пра даміпіканаў літоўскай правінцыі» (1917), «З мінулага кармелітаў на Літве і Русі» (1918). Аўтар прац па гісторыі земляў зах. Беларусі: «Тэрыторыя даўняй зямлі Брэсцкай» (1889), «З мінулага Ваўкавыскага павета» (1905). Супрацоўнічаў з часопісамі «Przegląd naukowy i literacki» («Агляд навуковы і літаратурны»), «Kwartalnik historyczny» («Квартальнік гістарычны») і інш.

*Літ.:* Polski słownik biograficzny. Warszawa, 1959. T. 8, z. 36. S. 22—23; Estreicher K. Bibliografia polska XIX stulecia. 2 wyd. Kraków, 1975. T. 8. S. 391—392. *С. Канаплёва.*

**ВАЛЫНЯ́НЕ**, велыняне, назва ўсходнеславянскага народа ў канцы 1 — пач. 2-га тысячагоддзя н. э., які займаў тэр. ў басейне верхняга цячэння Зах. Буга і каля вытокаў Прыпяці. Яго паўн. суседзі — *бужане.* Археал. раскопкамі высветлена, што В. са стараж. часоў жылі асела, займаліся земляробствам, жывёлагадоўляй, ляснымі промысламі. Паводле звестак географа Баварскага, у сярэдзіне 9 ст. В. (velunzani) мелі 70 «гарадоў» (замкаў). У 10 ст. ў іх развіваліся феад. адносіны. Арабскі географ аль-Масудзі паведамляў у 2-й пал. 10 ст. пра «валінана» і «дулаба», якіх у гіст. л-ры прынята лічыць В. і *дулебамі.* У 10 ст. на землях В. існавала *Уладзіміра-Валынскае княства.*

*Літ.:* Андрияшев А. М. Очерк истории Волынской земли до конца XIV столетия (с картой Волынской земли). Киев, 1887; Филевич И. П. Борьба Польши и Литвы-Руси за Галицко-Владимирское наследие: Ист. очерки. Спб., 1890; Пашуто В. Т. Очерки по истории Галицко-Волынской Руси. М., 1950; Тихомиров М. Н. Древнерусские города. 2 изд. М., 1956. *І. А. Юхо.*

**ВАЛЬВАЦЕ́НКА** Іван Кірылавіч [н. 15(28).4.1915, в. Мазалава Мсціслаўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Мсціслаўскага р-на]. Герой Сав. Саюза (1944). У 1933—34 працаваў у калгасе. У Чырв. Арміі з 1937. Удзельнік вызвалення Зах. Украіны ў 1939, сав.-фінл. вайны 1939—40. Скончыў курсы афіцэрскага саставу (1939), танкавую школу (1941). З чэрв. 1941 на Паўд.-Зах., Волхаўскім, Варонежскім, 1-м Укр. франтах. Удзельнік абароны Львова, Ленінграда, Масквы, Берлінскай і Пражскай аперацый. Вызначыўся ў баях каля Кіева. 5—6.11.1943 танкавая рота на чале са ст. лейтэнантам В. прарвала абарону ворага і перарэзала шашу Кіеў — Жытомір. Паранены В. з экіпажам у падбітым танку некалькі гадзін вёў бой да падыходу падмацавання; экіпаж знішчыў 2 варожыя танкі, 9 цяжкіх гармат, 17 аўтамашын. Да 1946 у Чырв. Арміі.

**ВАЛЬКО́ВІЧ** Аляксандр Іванавіч [21.4 (3.5).1892, Мінск (?) — 4.11.1937], дзеяч беларускага нацыянальнага руху. У 1914—15 працаваў у Віленскім аддзяленні дзярж. зямельнага банка. У пач. 1-й сусв. вайны ў эвакуацыі ў Тамбове. З вер. 1915 у арміі. Скончыў Гарыйскую школу прапаршчыкаў (1916). Да снеж. 1917 на Паўд.-Зах. фронце. З 1918 у Мінску, прадстаўнік БНР пры ўрадзе Грузіі, міністр фінансаў БНР. Чл. Бел. партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў. У час польскай акупацыі Беларусі 1919—20 арыштоўваўся, уцёк за мяжу. Пасля ліквідацыі ўрада БНР у снеж. 1925 вярнуўся ў БССР, працаваў інспектарам у Наркамаце фінансаў. У сак. 1930 у сувязі з чысткай апарата Наркамфіна пазбаўлены работы. 18.7.1930 арыштаваны ДПУ БССР па справе *«Саюза вызвалення Беларусі».* Паводле пастановы калегіі АДПУ БССР ад 10.4.1931, сасланы на 5 гадоў у г. Белябей (Башкірская АССР). 25.5.1937 арыштаваны НКУС Башкірыі быццам бы за антысав. дзейнасць і прыналежнасць да Польскай вайсковай арг-цыі. 28.10. 1937 «двойкай» (нарком унутр. спраў і пракурор СССР) прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Рэабілітаваны па першым прыгаворы Вярх. судом БССР 10.6.1988. *У. М. Міхнюк.*

**ВАЛЬНАДУ́МСТВА**, адмаўленне рэліг. дагматыкі і царк. абраднасці з рацыяналістычных пазіцый ва ўмовах панавання тэістычнага светапогляду. У больш шырокім сэнсе В.— адмаўленне любых форм аўтарытарна-дагматычнага, традыцыяналісцкага мыслення, сцвярджэнне каштоўнасці чалавечага розуму і яго права на вольныя пошукі ісціны. Як плынь грамадскай думкі В. склалася ў эпоху разлажэння феадалізму. Адыграла значную ролю ў фарміраванні антыфеад. ідэалогіі, станаўленні свецкай гуманіст. культуры, секулярызацыі літ. працэсу. Стымулявала развіццё навук. даследаванняў, матэрыяліст. і атэістычнай думкі. Тэрмін «В.» ўвайшоў ва ўжытак у 18 ст., аднак вытокі духоўнай традыцыі разняволення розуму ляжаць у ідэйным змесце культуры Адраджэння. Найвышэйшага росквіту В. дасягнула ў асветніцкім філас. і грамадска-паліт. мысленні. У Зах. Еўропе В. развівалася на аснове дэістычнага светаразумення (Х. Чэрберы, П. Бейль, Вальтэр), ва ўсх.-слав. культурах яно канцэнтруецца найперш вакол гуманіст.-асветніцкага *антыклерыкалізму.*

В. аказала глыбокае ўздзеянне на развіццё культуры Беларусі. Ужо ў *ерасях* 14—15 ст. (гусіты, несцяжацелі і інш.) былі элементы В. Ерэтыкі крытыкавалі пануючую царкву, духавенства, абраднасць і культы. Якасна новы характар В. набыло ў эпоху Адраджэння. У светапоглядзе і творчасці **Ф.** Скарыны яскрава выявілася імкненне гуманізаваць рэліг. светапогляд чалавека, узбагаціць духоўныя традыцыі хрысціянства элементамі антычнай культуры, узвысіць чалавечы розум, абудзіць цікавасць да свецкіх ведаў, вызваліць яго ад руціны і коснасці дагматычнай артадоксіі. Заснаваны Скарынам гуманіст.-асветніцкі кірунак В. ў 16—17 ст. развіты ў творчасці С. *Буднага,* В. *Цяпінскага,* Л. *Зізанія* і інш. Радыкальнае крыло вальнадумцаў падыходзіла да атэіст. светаўспрымання, што праявілася ў «багахульных» поглядах бел. эпікурэйцаў К. *Бекеша* і С. *Лована,* у творах ананімнай л-ры (трактат «Аб трох падманшчыках» і інш.). Вяршыняй В. на Беларусі ў 17 ст. сталі ідэі К. *Лышчынскага,* які ў трактаце «Аб неіснаванні бога» абвясціў людзей тварцамі рэлігіі. Жорсткія рэпрэсіі вымусілі бел. вальнадумцаў стварыць асобны жанр літ. творчасці — парадыйныя і сатырычныя ананімныя творы, у якіх парадзіраваліся біблейскія сюжэты, выкрываліся свецкія і царк. улады, абараняліся традыцыі нац. культуры, роднай мовы: «Прамовы Мялешкі» (1-я пал. 17 ст.), «Ліст да Абуховіча» (1655), «Казане руске схізматычнэ» (сярэдзіна 18 ст.) і інш. Гэты кірунак у л-ры прывёў да трыумфу В. ў класічных паэмах «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе» (19 ст.). Пашырэнне навук. ведаў, дэмакратызацыя культуры ў эпоху *Асветніцтва* на Беларусі выклікалі новую хвалю В. Антыклерыкальным зместам напоўнены ананімныя творы «Маё жыццё», «Дабрачынны цыган», «Падтрымка», «Роздум над жыццём Яна Замойскага», сатыра Макульскага «Пісьмо сельскага жыхара да прыдворнага», пароды ўраджэнца Беларусі Ю. Нямцэвіча «На гарадзенскі сойм», «Фрагмент тарговіцкай Бібліі» і інш. Усё больш значным быў уклад вучоных-натуралістаў у справу разбурэння рэліг.-біблейскай кар-

ціны свету. У 19 ст. гіст. традыцыі антырэліг. В. на Беларусі паступова зліваліся з рэв.-дэмакр. ідэалогіяй, якая фарміравалася ў гэты час, і трацілі самастойнае значэнне.

*Літ.:* История свободомыслия и атеизма в Европе. М., 1966; Из истории свободомыслия и атеизма в Белоруссии. Мн., 1978; Лившиц Г. М. Свободомыслие и атеизм в древности и средние века. Мн., 1973; Ревуненкова Н. В. Ренессансное свободомыслие и идеология Реформации. М., 1988. *Г. У. Грушавы.*

**ВА́ЛЬНЫ СОЙМ**, агульны сойм ВКЛ, на якім выбіраўся вял. князь і вырашаліся інш. важныя дзярж. справы. Гл. ў арт. *Сойм.*

**ВА́ЛЬТАР** Віктар Бенядзіктавіч [15(28).7.1902, г. Дзвінск, цяпер Даўгаўпілс, Латвія — 14.4.1931], беларускі пісьменнік. Скончыў Дзвінскую рус. гімназію, Бел. дзярж. настаўніцкія курсы ў Дзвінску (1922), вучыўся на каморніцкім ф-це Чэшскага вышэйшага тэхнікума (Прага, 1922—26). У 1926—31 працаваў настаўнікам у бел. школах у Латгаліі (Плейкі, Кейлава, Дзвінск), дырэктарам прыватнай бел. дадатковай вячэрняй школы ў Рызе. Друкаваўся з 1924 (пад псеўд. Янка Палын) у час. «Студэнцкая думка» (Вільня), газ. «Голас беларуса» (Рыга), «Наша доля» (Дзвінск), у калектыўным зборніку маладых бел. паэтаў Латвіі «Першы крок» (1926). Аўтар рамана «Роджаныя пад Сатурнам», у якім адлюстравана жыццё бел. эміграцыі і студэнцтва ў Празе, паказана грамадская дзейнасць П. Крачэўскага, Я. Станкевіча, Т. Грыба, М. Вяршыніна, прадстаўнікоў рус. і ўкр. эміграцыі (рукапіс зберагаецца ў Цэнтр. навук. б-цы АН Літвы). Перакладаў на бел. мову навелы А. Упіта.

*Тв.:* Леснікова сена. Рыга, 1932; Роджаныя пад Сатурнам // Голас Радзімы. 1991. № 23—50; 1992. № 1—3.

*Літ.:* Езавітаў К. В. Б. Вальтар // Бел. школа ў Латвіі. 1932. № 7; Панізнік С. Знаёмцеся: пісьменнік Віктар Вальтар // Голас Радзімы. 1991. № 22; Яго ж. «Раскрыўшы кнігу Бога ў глыбіні прастора...» // Тамсама. 1992. № 3. *С. С. Панізнік.*

**ВАЛЬФСО́Н** Сямён Якаўлевіч [27.5(8.6).1894, г. Бабруйск — 1941], беларускі філосаф, літаратуразнавец. Акад. АН БССР (1928). Праф. (1921). Скончыў Кіеўскі ун-т (1919). З 1921 выкладаў у БДУ, з 1931 дырэктар Ін-та філасофіі і права, акад.-сакратар Аддзялення грамадскіх навук АН БССР. Даследаваў праблемы дыялектычнага і гіст. матэрыялізму, гісторыі філасофіі, сацыялогіі, навукі, культуры, спадчыну Г. В. Пляханава. Аўтар аднаго з першых у СССР падручнікаў па дыялектычнаму матэрыялізму, які ўключаў таксама нарысы па гісторыі філасофіі і марксісцкай сацыялогіі. У працах 1920-х гадоў перабольшваў значэнне Пляханава ў развіцці марксісцкай тэорыі ў Расіі, заслугу У. І. Леніна бачыў пераважна ў распрацоўцы стратэгіі і тактыкі сацыяліст. рэвалюцыі ў Расіі. У 1930-я гады перайшоў на пазіцыі апалагетыкі афіцыйнай канцэпцыі «ленінізму-сталінізму». У 1930—33 адзін з афіцыйных бальшавіцкіх апалагетаў, распрацоўшчыкаў стратэгіі і тактыкі барацьбы з т. зв. бел. буржуазным нацыяналізмам. У шэрагу брашур, артыкулаў ацэньваў гісторыю бел. нац. культуры з вульгарнасацыялагічных пазіцый. У манаграфіі «Сучасная рэлігійнасць» (1930) падагульніў першыя на Беларусі канкрэтнасацыялагічныя даследаванні рэлігійнага жыцця ў рэспубліцы з пазіцый марксісцкага ваяўнічага атэізму. У даследаваннях па гісторыі развіцця шлюбу і сям'і перабольшваў ідэалагічныя і класавыя крытэрыі сямейнага побыту і маралі. У шэрагу публікацый выкрываў ідэалогію фашызму і расавыя тэорыі, антысеміцкія плыні ў дарэв. Расіі, пераносіў сталінскую канцэпцыю класавай барацьбы на бел. гістарыяграфію і культуру. Абвінаваціў А. Гаруна, А. Луцкевіча, В. Ластоўскага, М. Доўнар-Запольскага, М. Янчука, А. Смоліча і інш. т. зв. «нацыянал-дэмакратаў» у расізме і падпольнай антыдзяржаўнай дзейнасці. Выкрываў ідэалогію і навуку «загніваючага капіталізму». У канцы 1930-х гадоў прызнаў некаторыя памылкі, здолеў узняцца над спрошчанасцю сваіх трактовак, пра што сведчыў яго даклад у АН БССР, прысвечаны 35-годдзю літаратурнай дзейнасці Я. Купалы (Полымя рэвалюцыі. 1941. № 1). У 1930-я гады ўзначальваў рэдакцыю Беларускай энцыклапедыі, выданне якой не было ажыццёўлена з-за масавых рэпрэсій лепшых навуковых і культурна-асветніцкіх сіл рэспублікі. Чл. ЦВК БССР у 1929—38.

*Тв.:* Плеханов. 2 изд. Мн., 1924; Диалектический материализм. Ч. 1—3. 6 изд. Мн., 1926; Ленін і Пляханаў: (Іх адносіны згодна новых матэрыялаў) // Полымя. 1926. № 3; За марксізм: Зб. арт. Мн., 1928; Сучасная рэлігійнасць: (Паводле матэрыялаў даследавання ў БССР). Мн., 1930; Ідэалогія загніваючага капіталізму. Мн., 1934; Супраць расавых тэорый. Мн., 1935; Сям'я і шлюб у іх гістарычным развіцці. Мн., 1937. *У. М. Конан.*

**ВАЛЮ́МІНА ЛЕ́ГУМ** (лац. Volumina Legum, збор законаў. Другі тыт.: «Prawa, konstytucye y przywileie Królestwa Polskiego, y Wielkiego Xięstwa Litewskiego, y wszystkich prowincyi należących na walnych seymach koronnych od seymu Wiślickiego roku pańskiego 1347 aż do ostatniego seymu uchwalone»), шматтомны збор законаў, соймавых пастаноў, прывілеяў і інш. заканадаўчых актаў, якія дзейнічалі на тэр. Польшчы, Беларусі, Літвы і правабярэжнай Украіны з 1347 да 1793—95. Прыватнае выданне ордэна піяраў, арганізаванае пры падтрымцы Ю. Залускага і С. Канарскага. Прызначалася для практычнай арыентацыі юрыстаў, суддзяў, паліт. дзеячаў і інш. у заканадаўчым матэрыяле. Публікаваўся на польскай і лац. мовах з загалоўкамі, без каментарыяў, у канцы тамоў прыкладзены рээстр канстытуцый і прывілеяў за адпаведны перыяд. Упершыню т. 1—6 (акты 1347—1736) выдадзены ў Варшаве ў 1732—39, т. 7—8 (акты 1764—80) — у 1782. Гэтыя 8 тамоў перавыдаў і выдаў паказальнікі да іх І. П. Агрызка ў 1859—60 у Пецярбургу. У 1889 у Кракаве выйшаў т. 9 (акты 1782—92), у 1952 у Познані — т. 10 (з матэрыяламі Гарадзенскага сойма 1793). Некаторыя соймавыя матэрыялы да 1526 увайшлі ў выданне О. Бальцара «Збор законаў Польшчы» («Corpus iuris Polonici», т. 3—4, 1906—10). Апошняе перавыданне В. л. пачата ў 1970-я гады ў Варшаве. Прадметна-тэматычныя паказальнікі (інвентар) да В. л. «Konstytucye koronne y Wielkiego Xięstwa Litewskiego od roku pańskiego 1550 do roku 1683» падрыхтаваў і апублікаваў у 1685 у Варшаве сакратар кароннай канцылярыі М. Ладоўскі (дапоўнены да 1726 Залускім, перавыдадзены ў 1733). У 1754 і 1782 выйшлі падрыхтаваныя А. Жагліцкім і Т. Вагам дапоўненыя выданні інвентароў.

В. л.— неафіцыйнае выданне і не з'яўляецца поўным зборам законаў. Змешчаны акты, узятыя з арыгінальных крыніц і з прац асобных аўтараў. Для вывучэння гісторыі Беларусі значную каштоўнасць маюць акты, што адносяцца да дзейнасці органаў дзярж. кіравання і ўлады, адлюстроўваюць паліт. і сац.-эканам. адносіны, як, напр.: прывілей купцам Польшчы і ВКЛ 1424; прывілей зямлі Падляшскай 1569; канстытуцыя абодвух народаў, польскага і літоўскага, прынятая на Люблінскім сойме 1569; генеральная канфірмацыя ўсіх прывілеяў Польшчы і ВКЛ 1576; «справы ВКЛ» 1590; асобныя канстытуцыі ВКЛ (пачалі выдавацца з пач. 17 ст.), дзе зацвярджаліся ўхвалы соймаў па розных пытаннях (апрабацыя міжнар. трактатаў і дагавораў ВКЛ, прызначэнне камісараў, арганізацыя судовых устаноў, падаткі, мытныя зборы, рамонт дарог, мастоў, ачышчэнне рэчышчаў і інш.). Шмат канкрэтных звестак па паліт., гасп. і адм. справах на Беларусі: пацвярджэнне падзелу бел. уладанняў князёў Радзівілаў (1589), вызначэнне межаў Полацкага (1590), Падляшскага і Берасцейскага (1598, 1607) ваяводстваў, дазвол на арганізацыю кірмашу ў Менску (1601), паіменны спіс шляхты Віцебскага, Навагародскага, Полацкага ваяводстваў.

*Літ.:* Беднов В. А. Православная церковь в Польше и Литве (по Volumina Legum). Екатеринослав, 1908; Kutrzeba St. Historja źródeł dawnego prawa polskiego. T. 1. Lwów etc., 1925; Historia Polski. T. 1. Warszawa, 1957. *Г. Я. Галенчанка.*

**ВАЛЮ́ШНАЕ РАМЯСТВО́**, валенне сукна, а таксама выраб галаўных убораў, абутку, гасп. рэчаў з воўны шляхам валення. На Беларусі вядома з даўніх часоў, найб. развіццё атрымала ў 19 ст. Працэс апрацоўкі ажыццяўляўся ў спец. будынках — валюшнях — і ўключаў 4 этапы: закладка вырабу, валенне, фармаванне, аддзелка. Воўну насцілалі на стале на змочаным вадой кавалку палатна (плацік), скручвалі яго разам з воўнай у трубку, камячылі рукамі да ўтварэння тонкага пласта (пляйстра).

На яго праз палатняную пракладку клалі новы пласт воўны, накрывалі плацікам і зноў камячылі. Потым пракладку даставалі, пляйстрам надавалі форму вырабу, злучалі абодва пласты, аблівалі кіпенем, для ўшчыльнення шмат разоў раскручвалі і цёрлі рознымі качалкамі. Загатоўку для валёнак ці магерак насаджвалі на драўляную калодку (правідлы, балванкі) для надання патрэбнай формы. Пасля сушкі ў печы расчэсвалі і абпальвалі ворс. З валенага сукна звычайна шылі верхняе адзенне: світы, сярмягі, буркі, бурносы. Шапавальства пераважала ў форме адыходнага промыслу (гл. *Адыходніцтва*). Майстры-шапавалы працавалі ў дамах заказчыкаў, пераходзячы з вёскі ў вёску. З развіццём капіталіст. адносін і пранікненнем у вёску фабрычных тавараў маштабы В. р. паступова скарачаліся.

*Н. І. Буракоўская.*

**ВАЛЯ́ЎКА** Васіль Антонавіч [11(23).6. 1885, с. Магдалінаўцы, цяпер у складзе с. Успенкі Мікалаеўскага р-на Адэскай вобл.— 24.6.1930], удзельнік барацьбы за сав. ўладу на Украіне. Беларус. З 12 гадоў працаваў на шахце. У 1905 адзін з арганізатараў і кіраўнікоў крыварожскіх бальшавікоў. З 1906 у ссылцы ў Архангельскай губ. У 1910—16 вёў нелегальную парт. работу на Екацярынаслаўшчыне. У 1917 арыштаваны і сасланы ў Іркуцкую губ. Пасля лют. рэвалюцыі 1917 чл. Екацярынаслаўскага і Крыварожскага к-таў РСДРП(б), выканкомаў Саветаў рабочых і салдацкіх дэпутатаў, удзельнік барацьбы за сав. ўладу ў Екацярынаславе і Крывым Розе. З 1918 камісар Крыварожскага рэв. палка, удзельнічаў у баях супраць ням. акупантаў, абароне Царыцына. У 1919—20 старшыня Екацярынаслаўскай і Валынскай губчэка, Аляксандраўскага пав. выканкома. Пасля грамадз. вайны на сав. і гасп. рабоце. Чл. ЦВК УССР у 1926—30. Чл. ЦКК КП(б) Украіны ў 1927—30. У г. Крывы Рог яму пастаўлены помнік, яго імем названа шахта.

*Э. А. Карніловіч.*

**ВАНЕ́ЕЎ** Уладзімір Рыгоравіч [25.7(6. 8).1896, в. Шыпічоўшчына Кацельніцкага пав. Вяцкай губ., цяпер Кіраўскай вобл.— 12.10.1941], партыйны і дзяржаўны дзеяч БССР. У 1-ю сусв. вайну з 1915 на Зах. фронце. Удзельнік грамадз. вайны. Чл. ВКП(б) з 1918. У 1919—36 на сав. і парт. рабоце. Вучыўся ў прамысл. акадэміі ў Маскве. З кастр. 1937 старшыня выканкома Мінскага гарсавета, са жн. 1938 нарком гандлю БССР, з сак. 1939 нам. старшыні СНК БССР, з сак. 1941 3-і сакратар ЦК КП(б)Б. У Айч. вайну з 23.7.1941 брыгадны камісар, чл. Ваен. савета 19-й арміі Зах. фронту. Загінуў у баі. Канд. у чл. ЦК КП(б)Б з 1938, чл. ЦК КП(б)Б з 1940, чл. Бюро ЦК КП(б)Б з сак. 1941. Чл. ЦВК СССР у 1927—29. Дэп. Вярх. Савета СССР з 1937. Яго імем названа вуліца і плошча ў Мінску.

П Ф. Ваисецкі.

В. М. Ванькові́ч. Паводле аўтапартрэта.

**ВА́НЖУРА** Эрнест [1750(?) — 1802], кампазітар і клавесініст. Па паходжанні чэх, жыў у Расіі. У 1780 граф С. Г. Зорыч запрасіў яго ў свой тэатр у Шклове. Аўтар лібрэта, музыкі і дэкарацый «Пантамімы з алегорыямі», пастаўленай там 30.5.1780 у прысутнасці Кацярыны II і аўстрыйскага імператара Іосіфа II. У 1783—86 музычны кіраўнік выхаваўчага дома, інспектар музычных класаў Пятроўскага тэатра ў Маскве, у 1786—97 служыў у дырэкцыі імператарскіх тэатраў у Пецярбургу. Удзельнічаў у камерных канцэртах пры двары, выдаваў музычны часопіс. Сярод твораў — камічная опера «Храбры і смелы віцязь Архідэіч» (паст. 1787), «Руская сімфонія на ўкраінскія тэмы».

*Г. І. Барышаў.*

**ВАНСЕ́ЦКІ** Павел Фёдаравіч (1915, Краснадар — 27.3.1944), Герой Сав. Саюза (1945). Беларус. Працаваў токарам. З 1938 у ВМФ, служыў на лідэры «Ташкент» Чарнаморскага флоту. З мая 1942 у брыгадзе марской пяхоты. Удзельнік дэсантных аперацый у Навасійску, Марыупалі, Таганрогу, Бярдзянску. Старшыня 2-й стацці В. вызначыўся ў час дэсантнай аперацыі ў г. Мікалаеве (абл.). У ноч на 26.3.1944 атрад дэсантнікаў з 68 чал., у складзе якога быў В., па Паўд. Бугу зайшоў у тыл ворага, высадзіўся ў порце, 2 сутак вёў няроўны бой, адбіў 18 контратак, знішчыў каля 700 гітлераўцаў. У Мікалаеве ў гонар дэсантнікаў — Герояў Сав. Саюза адкрыты Нар. музей баявой славы, пастаўлены помнік, названа вуліца.

**ВАНЬКО́ВІЧ** Валенцій Мельхіёравіч 14.2.1800 (паводле інш. звестак 1799), в. Калюжыца Ігуменскага пав., цяпер Бярэзінскі р-н — 12.5.1842], жывапісец, прадстаўнік рамантызму. Са старажытнага бел. шляхецкага роду *Ваньковічаў*. Творчасць звязана з мастацкім жыццём Беларусі, Літвы і Польшчы. Дзіцячыя гады прайшлі ў в. Сляпянка пад Мінскам. Вучыўся ў Полацкім езуіцкім калегіуме, потым у Віленскім ун-це ў Я. Рустэма (1818—24) і Пецярбургскай акадэміі мастацтваў (з 1824). Скончыўшы навучанне, жыў у Мінску, меў майстэрню ў Сляпянцы. Сябраваў з А. Міцкевічам. Аўтар карцін «Подзвіг маладога кіяўляніна пры аблозе Кіева печанегамі ў 968 годзе» (1827), «Міцкевіч на скале Аюдаг» (1828), «Напалеон каля вогнішча» (1834), партрэтаў А. Пушкіна (1826—27), А. Міцкевіча, паэта А. Гарэцкага, піяністкі М. Шыманоўскай, музыканта К. Ліпінскага (1827), сяброў мастака па Віленскім ун-це Э. і С. Хамінскіх і К. Пясецкага (1834), К. і А. Тавянскіх (1837), графа С. Строганава (мініяцюра, 1831), А. Манюшкі і інш. Сярод работ літаграфіі («Галава старога», «Аўтапартрэт»), рысункі («Від руін у Італіі», «Пейзаж», «Сажалка») і інш. У 1839 выехаў за мяжу, памёр у Парыжы.

*Літ.:* Д р о б а ў Л. Н. Беларускія мастакі XIX стагоддзя. Мн., 1971; Я г о ж. Живопись Белоруссии XIX — начала XX в. Мн., 1974.

*Л. Н. Дробаў.*

**ВАНЬКО́ВІЧ** Мельхіёр [29.12.1891 (10.1. 1892), в. Калюжыца Ігуменскага пав., цяпер Бярэзінскі р-н — 10.9.1974], польскі празаік і публіцыст. Са старажытнага бел. шляхецкага роду *Ваньковічаў*. Скончыў Варшаўскі ун-т (1922). Аўтар брашуры «Чаму польскі салдат уваходзіць у Літву і Беларусь» (1919). У 1920—30-х гадах шмат падарожнічаў па Зах. Беларусі. Звяртаючыся да ўспамінаў свайго дзяцінства і юнацтва, якое прайшло на Міншчыне і ў Мінску, напісаў аповесць «Шчанюковы гады» (1934). Пасля наведвання СССР выдаў кнігу рэпартажаў «Апер'еная рэвалюцыя» (1934). У 1927—39 адзін з уладальнікаў левага выд-ва «Rój» («Рой»). Апекаваўся маладымі пісьменнікамі, ураджэнцамі Беларусі. Выдаў гіст. аповесць з часоў грамадз. вайны «Шпіталь у Ціхінічах» (2 выд. 1935). З 1949 жыў у ЗША, у 1958 пераехаў у Варшаву. Аўтар рамана «Зелле на кратэры» (1957), аповесці «Вестэрплятэ» (1959), нарысаў і рэпартажаў «Монтэ Касіна» (1957), «Ад Стоўбцаў да Каіра» (1969), успамінаў «Туды і сюды» (1961) і інш.

*А. П. Грыцкевіч.*

**ВАНЬКО́ВІЧ** Ян (Ян Эдвард) Валенцьевіч [11(23).10.1834, маёнтак Сляпянка пад Мінскам, цяпер у межах горада — 2.8.1899], удзельнік *паўстання 1863—64* на Беларусі. Сын мастака В. *Ваньковіча.* Скончыў лясны ін-т у Пецярбургу (1856), працаваў ляснічым у Екацярынаслаўскай губ., з 1860 у Белавежскай пушчы, паручнік корпуса ляснічых. Прыхільнік *«чырвоных»*, яшчэ ў студэнцкія гады пазнаёміўся з малодшым таварышам па інстытуце В. *Урублеўскім*, у 1861 адзін з першых увайшоў у *Гродзенскую рэвалюцыйна-дэмакратычную арганізацыю.* У час паўстання пад псеўд. Л я л і в а змагаўся ў атрадах на Падляшшы, быў паранены. У маі 1863 узначаліў Брэсцкі паўстанцкі атрад і з Кобрынскім атрадам Р. *Траўгута* зрабіў рэйд на Піншчыну. У ліп. 1863 з дапамогай Э. *Ажэшкі* выехаў у Польшчу, працаваў у паўстанцкай арг-цыі ў Галіцыі. У сак. 1864 арыштаваны аўстрыйскімі ўладамі. Пасля жыў у Парыжы, Кракаве. Хросная метрыка В. захоўваецца ў ЦДГА Беларусі ў Мінску (Ф. 319, воп. 2, спр. 440, л. 16).

*Літ.:* C i e c h a n o w s k i S. Towarzysz walk Traugutta major Wańkowicz-Leliwa // Przegląd Współczesny. 1925. T. 12.

*Г. В. Кісялеў, Я. Я. Янушкевіч.*

Я. В. Ваньковіч.

**ВАНЬКО́ВІЧЫ**, старажытны беларускі шляхецкі род герба *«Ліс».* Першае ўпамінанне пра род адносіцца да 1499. Бесперапынны радавод вядзецца з 16 ст., калі В. мелі маёнткі ў Навагрудскім пав. і каля Вілейкі. Былі праваслаўнымі, з пач. 17 ст. каталікамі. У 19—20 ст. валодалі вёскамі Калюжыца Ігуменскага пав. (цяпер Бярэзінскі р-н), Волма Мінскага пав. (цяпер Дзяржынскі р-н), Дзевялтова і інш. Займалі пасады ў мясц. адміністрацыі ВКЛ, былі дэпутатамі соймаў і Гал. Літ. трыбунала, выбіраліся ў органы дваранскага самакіравання Расійскай імперыі.

Найб. вядомыя: Ю х н а, дваранін каралеўскі (1-я пал. 16 ст.); П ё т р, падкаморы віленскі; Я н, харужы мінскі; А д а м, староста краснасельскі, дэпутат Гал. Літ. трыбунала (1639); С т а ф а н, суддзя гродскі вількамірскі; П ё т р, войскі мінскі; С т а н і с л а ў, падчашы аршанскі; Я н, войскі і падстароста судовы вількамірскі; Я н, падстолі мінскі; У л а д з і с л а ў, войскі, суддзя земскі мінскі, дэпутат Гал. Літ. трыбунала (1684, 1688); Т э а д о р А н т о н і, стольнік і падстароста судовы мінскі, староста падусвяцкі, кашталян мінскі, дэпутат Гал. Літ. трыбунала (1682, 1686, 1691, 1701, 1709); С т а н і с л а ў, падчашы смаленскі; А н т о н і, чашнік вількамірскі; У л а д з і с л а ў Т а д э в у ш, мечнік мінскі, староста рушоўскі, сеймавы пасол, дэпутат Гал. Літ. трыбунала (1711, 1717, 1722, 1726); С т а н і с л а ў, падчашы аршанскі; Т а м а ш, чашнік мінскі; М а т э в у ш, суддзя земскі мінскі (1778); Т а д э в у ш, мечнік мінскі; Ю з а ф, пісар гродскі мінскі (1788), прадвадзіцель дваранства Мінскага пав. (1795—1800, 1802—08); С т а н і с л а ў, барысаўскі пав. прадвадзіцель дваранства (1797—1802); А н т о н, ігуменскі пав. прадвадзіцель дваранства (1805—08); А п а л і н а р ы, мінскі пав. прадвадзіцель дваранства (1814—17); Л е ў А п а л і н а р а в і ч, мінскі пав. прадвадзіцель дваранства (1863—72); В а л е н ц і й М е л ь х і ё р а в і ч, жывапісец (гл. *Ваньковіч* В. М.); Я н В а л е н ц ь е в і ч, удзельнік паўстання 1863—64 у Польшчы, на Беларусі і ў Літве (гл. *Ваньковіч* Я. В.); М е л ь х і ё р, польскі празаік і публіцыст (гл. *Ваньковіч* М.) і інш. У 1912 прадстаўнікі разгалінаванага роду В. з мэтай аказання матэрыяльнай дапамогі сваім бяднейшым суродзічам утварылі дабрачынную арг-цыю «Установа ўзаемнай дапамогі роду дваран Ваньковічаў», якая мела свой статут, узначальвалася радай. Зберагліся мінскія сядзібы Ваньковічаў.

*Літ.:* Алфавитный список дворянским родам Минской губернии. Мн., 1903; N i e s i e c k i K. Herbarz Polski. T. 9. Lipsk, 1842; B o n i e c k i A. Poczet rodów w Wielkiem Księstwie Litewskiem w XV i XVI wieku. Warszawa, 1887.

*А. П. Грыцкевіч.*

**ВА́ПЛЕР** (В е п л е р) Андрэй (? — ?), музыкант, капельмайстар і кампазітар 18 ст. Каля 1736 паступіў на службу ў прыдворную капэлу кн. М. К. Радзівіла Рыбанькі ў Нясвіжы. У 1740—50-я гады працаваў у аркестры кн. Г. Ф. Радзівіла ў Слуцку. Выязджаў з аркестрам у Белае (цяпер Бяла-Падляска, Польшча) і Нясвіж.

*Г. І. Барышаў.*

**ВАПО́ЎСКІ** (Wapowski) Бярнард (каля 1450—21.11.1535), польскі гісторык, картограф, храніст, астраном. Сакратар і гістарыёграф караля Рэчы Паспалітай Жыгімонта I Старога. Першы польскі картограф. Каля 1526 зрабіў карту «Паўднёвая Сарматыя» (маштаб 1:2 900 000, памеры 60×42 см), на якой паказана паўд. і цэнтр. Польшча, Венгрыя, паўн. частка Балканскага паўвострава, паўд. частка Беларусі, Крымскае ханства і частка зямель Вял. княства Маскоўскага. Сярод населеных пунктаў Беларусі зафіксаваны Бабруйск, Глуск, Гомель, Лоева Гара, Мазыр, Рэчыца, Свіслач, Тайманава. Паказана даволі густая сетка рэк: сярэдні і ніжні Дняпро, Сож, Бярэзіна з прытокам Свіслач, Прыпяць з прытокам Цецераў, Нёман, які пачынаецца з балоцістых мясцін, паказаных у выглядзе возера. Другая група рэк — Лясная, Мухавец, Нараў і Ясельда — таксама бярэ вытокі, паводле карты, з багністага возера. Карта нясе і пэўную гіст. інфармацыю ў выглядзе мініяцюрных малюнкаў. Так, ніжэй Гомеля на ўсх. беразе Дняпра паказана ў малюнках і з адпаведным надпісам Аршанская бітва 1514; асобны надпіс паведамляе пра бітву 1444 пад Варнай і легендарныя бітвы 11 ст. Баляслава Храбрага і Баляслава Шчодрага. Аўтар «Гісторыі Польскай Кароны і Вялікага княства Літоўскага ад 1380 да 1525 г.», якая ўключае гіст. падзеі, што адбыліся на тэр. Польшчы і ВКЛ. Сярод іх найб. яскрава і поўна апісана Грунвальдская бітва 1410, пералічаны многія бел. харугвы. Хроніка ў значнай ступені абапіраецца на «Гісторыю Польшчы» Я. Длугаша.

*Тв.:* Dzieje Korony Polskiej i Wielkiego Księstwa Litewskiego od roku 1380 do 1535. T. 1. Wilno, 1847.

*Літ.:* A l e x a n d r o w i c z St. Rozwój kartografii Wielkiego Księstwa Litewskiego od XV do połowy XVIII wieku. 2 wyd. Poznań, 1989.

*М. А. Ткачоў.*

**ВАРАБЕ́Й** Мікалай Сідаравіч (н. 20.6. 1931, б. пас. Брадок Чэрвеньскага р-на), беларускі гісторык. Д-р гіст. навук (1982), праф. (1984). Скончыў Маскоўскі паліграфічны ін-т (1961). У 1956—63 працаваў у рэдакцыях раённых газет, у выд-ве «Народная асвета». З 1966 ст. выкладчык, дацэнт БПІ. З 1982 заг. кафедры гісторыі КПСС, з 1992 праф. кафедры паліт. гісторыі Мінскага пед. ін-та замежных моў. Даследаваў грамадска-паліт., эканам. і культурныя сувязі рэспублікі з замежнымі краінамі.

*Тв.:* Сотрудничество Белорусской ССР с социалистическими странами. Мн., 1970 (разам з С. Д. Вайтовічам, В. С. Талстым); Участие Белорусской ССР в отношениях Советского Союза с капиталистическими странами. Мн., 1981; Мосты дружбы. Мн., 1989 (разам з І. А. Захарчанкам).

**ВАРАБ'ЁЎ** Іван Аляксеевіч (н. 26.8. 1921, в. Гарбачова Адоеўскага р-на Тульскай вобл.), двойчы Герой Сав. Саюза (1944, 1945). Скончыў Тамбоўскую ваен. авіяцыйную школу пілотаў (1941), Ваенна-паветраную акадэмію (1952). У Чырв. Арміі з 1940. У Вял. Айч. вайну на фронце са жн. 1942; камандзір звяна, эскадрыллі штурмавога авіяпалка. Маёр В. зрабіў каля 400 баявых вылетаў. Удзельнік Сталінградскай бітвы, вызвалення Крыма, Украіны, Беларусі (Орша, Віцебск, Барысаў, Мінск, Баранавічы), Літвы, баёў ва Усх. Прусіі. Пасля вайны да 1973 на камандных пасадах у ВПС, на выкладчыцкай рабоце, палкоўнік.

**ВАРА́ГІ** (ад стараж.-сканд. vaeringjar, познагрэч. Barangoi), усходнеславянская назва выхадцаў з Паўн. Еўропы і Скандынавіі «эпохі вікінгаў» (у гісторыі стараж. Русі ўмоўны перыяд з 2-й пал. 9 да 1-й пал. 11 ст.). Дружыны вікінгаў (у Зах. Еўропе іх называлі яшчэ н а р м а н а м і — паўн. людзьмі) на сва-

іх суднах рабілі спусташальныя набегі на прыбярэжныя вобласці Еўропы, пранікаючы часам у глыб мацерыка. Усх. Еўропа пастаянна прываблівала В. сваімі прыроднымі багаццямі, а таксама магчымасцямі разнастайных кантактаў, у т. л. гандлёвых, з мясц. насельніцтвам, краінамі Арабскага Усходу і Візантыяй. Гэтаму спрыяла і разгалінаваная рачная сетка, што звязвала Балтыйскае мора з Волгай і Каспійскім морам — т. зв. волжскі шлях («з варагаў у арабы»), з Дняпром і Прычарнамор'ем — *шлях «з варагаў у грэкі».* На тэр. Беларусі стыкоўваліся рачныя шляхі па Зах. Дзвіне і Дняпры (у раёне Віцебска і Оршы), а таксама па Нёмане і Бярэзіне. Першае ўпамінанне пра В., якія збіралі даніну ў зямлі *крывічоў* (тэр. паўн. Беларусі, Падзвінне), адносіцца да 859. Потым яны былі выгнаны, але ў 862, паводле летапіснага падання, былі заклікаsuccessful на княжанне канфедэрацыяй паўн.-рускіх плямён, у якую ўваходзілі і крывічы. Рурык, родапачынальнік рус. княжацкай дынастыі, які асталяваўся ў Ноўгарадзе, пачаў раздаваць сваім варажскім паплечнікам (у летапісе яны названы находнікамі) гарады, у т. л. Полацк, які займаў ключавое становішча на заходнядзвінскім шляху. Пасля смерці Рурыка ў 879 Полацк і крывіцкая зямля трапілі ў залежнасць ад аднаго з яго варажскіх васалаў — Алега, які ў 882 асталяваўся ў Кіеве. У 960—970-х гадах Полацк быў захоплены выхадцам «из заморья» *Рагвалодам,* заснавальнікам полацкай дынастыі князёў. У 980 (паводле В. М. Тацішчава, у 975 або 976, паводле А. А. Шахматава, у 970) Рагвалод забіты кн. *Уладзімірам Святаславічам.* Важнае значэнне Полацка ў сувязях «варажскай» Поўначы са Стараж. Руссю 10—11 ст. пацвярджае параўнальна частае ўпамінанне горада (Pallteskia, Palteskjuborg) і р. Зах. Дзвіна (Duna) у стараж.-скандынаўскіх сагах і геагр. апісаннях. Так, «Сага аб хрышчэнні» называе ісландскага місіянера Торвальда, які, вяртаючыся з Усходу дадому, памёр паблізу Полацка, «там ён пахаваны ў высокай гары ўверх па цячэнні Дроўна каля царквы Іаана» (Хрысціцеля.— Рэд.). Ёсць думка, што магіла Торвальда знаходзілася на З ад Полацка, бліжэй да Браслаўскіх азёр. Не выключана, што ў рус. летапісе зафіксавана знаходжанне ў 10 ст. нейкай «варажскай» дружыны ў другім бел. горадзе — Тураве. Гандлёвыя і інш. сувязі стараж. насельніцтва Беларусі з краінамі Паўн. Еўропы і Скандынавіі «эпохі вікінгаў» адлюстраваны ў археал. матэрыялах. Па Зах. Дзвіне, Бярэзіне і Нёмане на Пн паступалі сярэбраныя арабскія манеты — дырхемы, якія траплялі ў скарбы Швецыі, Нарвегіі і Даніі. У сваю чаргу ў скарбах 10—11 ст. у Полацкім Верхнім замку і каля в. Новы Двор (Мінскі р-н) сустракаюцца манеты, чаканеныя ў Даніі. У Полацку знойдзены меч 10 ст., зроблены на Рэйне франкскімі збройнікамі. На яго клінку было кляймо майстра — Ulfberht. Такія мячы ў вял. колькасці паступалі ў Скандынавію, а адтуль разам з В. на Русь. У курганных могільніках Лудчыцы (Быхаўскі р-н) і Калодзецкая (Касцюковіцкі р-н) знойдзены падвескі, на думку спецыялістаў, у выглядзе выяў вікінгаў; на гарадзішчы Маскавічы (Браслаўскі р-н) — падкованападобная фібула з выявамі звярыных галовак на канцах, раўнаплечая фібула, шырокапалосныя крыжыкі, падвеска ў выглядзе вадаплаўнай птушкі і больш за 100 абломкаў касцей жывёл з рунічнымі надпісамі і малюнкамі. У цэлым на тэр. Беларусі знаходкі «варажскага» паходжання ў параўнанні з іх канцэнтрацыяй у суседніх землях — пад Смаленскам і ў Кіеве — нешматлікія і рассеяны ў розных яе месцах. Разам з тым пісьмовыя і археал. крыніцы, якія адносяцца да гісторыі бел. земель 9—11 ст., сведчаць пра знаходжанне В. пераважна ў Падзвінні. Уключыўшыся ў працэс фарміравання стараж.-рус. дзяржавы і адыграўшы пэўную ролю ў паліт. падзеях стараж. Полацка, В., аднак, не пакінулі прыкметных слядоў сваёй дзейнасці ў зах. раёнах Кіеўскай Русі.

Да арт. **Варагі.** Скандынаўскія знаходкі: падвеска з могільніка Калодзецкая Касцюковіцкага р-на (1), падвеска-качка і раўнаплечая фібула з гарадзішча Маскавічы Браслаўскага р-на (2, 3).

*Літ.*: Исторические связи Скандинавии и России. IX—XX вв. Л., 1970; Алексеев Л. В. Полоцкая земля в IX—XIII вв.: (Очерки истории Северной Белоруссии). М., 1966; Штыхов Г. В. Древний Полоцк IX—XIII вв. Мн., 1975; Булкин В. А., Зоценко В. Н. Среднее Поднепровье и Неманско-Днепровский путь IX—XI вв. // Проблемы археологии Южной Руси: Материалы ист.-археол. семинара «Чернигов и его округа в IX—XIII вв.». Киев, 1990; Древнерусские города в древнескандинавской письменности. М., 1987; Дучиц Л. В., Мельникова Е. А. Надписи и знаки на костях с городища Масковичи // Древнейшие государства на территории СССР. М., 1981.
*В. А. Булкін.*

**ВАРАЖБА́,** магічныя спосабы і дзеянні, што нібыта прадракаюць будучае і расказваюць пра мінулае. Узнікла ў першабытным грамадстве разам з раннімі формамі рэлігіі — верай у звышнатуральныя сілы, добрых і злых духаў, у лёс. Звязана з прыкметамі, значная частка якіх заснавана на жыццёвым і гасп. вопыце, назіраннях за з'явамі прыроды, паводзінамі жывёл. З даўніх часоў варажылі па лініях далоні, зорках, на картах, вадзе, зернях. Выкарыстоўвалі розныя прадметы (пярсцёнкі, люстэркі, чаравікі, замкі), кукаванне зязюлі, галасы «вешчых» птушак (савы, крумкача, пеўня). У В. паводле прыкмет ёсць пэўная рацыянальнае зерне (назіранне), іншыя яе віды вынікаюць з забабонных уяўленняў; ім уласцівы містычны характар, і грунтуюцца яны на ўяўным знешнім падабенстве або процілегласці, сугучнасці слоў і інш. Займаліся В. варажбіты, знахары, чарадзеі, у Стараж. Русі вешчуны. На Беларусі найчасцей варажылі на *Калядны,* на *куццю,* калі В. павінна была вызначыць, чаго можна чакаць у надыходзячым годзе, якая збажына ўродзіць, выражылі і пра замужжа. Гл. таксама *Магія і чараўніцтва.*

**ВАРАКО́МСКІ** Адам, пісьменнік 1-й пал. 18 ст. Жыў, відаць, у Полацку. Аўтар польскай паэмы «Гісторыя пра блаславёных мучанікаў» (1738, рукапіс захоўваецца ў архіве С.-Пецярбургскага філіяла Ін-та расійскай гісторыі Расійскай АН). У творы апісана знаходжанне летам 1705 у Полацку Пятра I, яго расправа над грэка-каталіцкім (уніяцкім) духавенствам. Аўтар асуджае цара за жорсткасць, аднак аддае належнае яго мудрасці, імкненню пашыраць у Расійскай дзяржаве асвету. Пятра I В. параўнаў з біблейскім царом Давідам. У мове паэмы ёсць беларусізмы. *А. В. Мальдзіс.*

**ВАРАНЦО́Ў** Аляксандр Нічыпаравіч [9(22).9.1907, в. Пань-Буда Клімавіцкага пав. Магілёўскай губ., цяпер в. Паньжаўская Буда Касцюковіцкага р-на — 23.1.1973], Герой Сав. Саюза (1945). Працаваў у калгасе. На фронце з ліп. 1941. Удзельнік абароны Масквы, наводчык станковага кулямёта. Зімою 1942—43 удзельнічаў у 42-дзённым рэйдзе па тылах ворага ў раёне Ржэў — Сычоўка — Нялідава. У вер. 1943 у складзе войск Бранскага фронту, адзін з першых фарсіраваў Дзясну і на захопленым плацдарме адбіў 2 контратакі праціўніка. Вызначыўся і ў баях на тэр. Германіі, дзе нанёс ворагу вял. страты. Пасля вайны старшыня калгаса, ляснік. Яго імем названа вуліца ў г. Касцюковічы.

**ВАРАНЦЭ́ВІЧЫ,** вёска ў Воўкавіцкім сельсавеце Талачынскага р-на. За 17 км на У ад Талачына, 14 км ад чыг. ст. Талачын. Цэнтр калгаса «Камсамольская праўда». 112 двароў, 286 ж. (1992).

Узніклі на тэр. той часткі *Друцкага княства,* якая ў 2-й пал. 15 ст. належала кн. Друцкім-Пуцяцічам, сынам кн. Івана Сямёнавіча Пуцяты. Пры вял. князю ВКЛ Аляксандру ў канцы 15 — пач. 16 ст. В. перайшлі да Юрыя Іванавіча Ілініча (памёр у 1527), потым да яго сына Станіслава (памёр у 1531) і дачкі Ганны, жонкі Пятра Станіслававіча Кішкі. Як сумесная ўласнасць С. Ілініча і П. Кішкі В. ўпамінаюцца ў перапісе войска ВКЛ 1528, калі з іх належала ставіць у войска 7 коннікаў. У 1551 В. валодаў трокскі ваявода Мікалай Юр'евіч Радзівіл Руды, у 1559 Варанцэвіцкая вол. часова далу-

чана да дзярж. Аршанскага замка, інвентар якога за 1560 называе ў складзе гэтай воласці вёскі, размешчаныя ўперамежку з інш. часткамі б. Друцкага княства: Вострыя Шапкі, Грушка (Ігрушка), Яльняны, Пярэвалачня, Сакалавічы, Стайкі, Шырневічы. В. пры гэтым засталіся ўласнасцю М. Ю. Радзівіла да 1584, калі ён абмяняў іх канцлеру Астафію Валовічу за долю апошняга ў маёнтках Станькаў і Жыцін. У 1593 уласнасць віцебскага кашталяна Мацея Стравінскага (памёр у 1594), потым праз шлюб яго дачкі Соф'і з Грыгорыем Іванавічам Сапегам перайшлі да апошняга, а пасля яго смерці (1600) — да яго сына, старосты аршанскага Аляксандра Багдана (Дажджбога) Сапегі (1585—1633). Каля 1613 апошні запісаў сваёй жонцы Альжбеце Еранімаўне Хадкевіч грашовае забеспячэнне на маёнтку В. ў памеры 30 тыс. злотых. На карце ВКЛ Т. Макоўскага (1613) В. пазначаны як мястэчка. Уваходзіла ў Аршанскі пав. У 1641 у выніку падзелу спадчыны А. Сапегі паміж яго дочкамі Ганнай (жонка Станіслава Нарушэвіча) і Хрысцінай (жонка Яна Самуэля Паца) В. адышлі да апошняй. Пасля яе смерці (1649) В. дасталіся Пацу. Уводны ліст, складзены пра перадачу Пацу маёмасці жонкі, пералічвае паселішчы, што ўваходзілі ў той час у склад маёнтка: мяст. Старыя В. (у дакуменце сяло), сёлы Башарова, Клікаў, Крапівянка, Любавічы (Любанічы), Палачаны, Свіраны (Свірані), Слабада (Баркова Слабада), Старкава (верагодна, Стайкі), фальваркі Пярэвалачня (з сёламі Кучына, Марцюхова і 2 Пярэвалачнямі) і Альшанікі (з сёламі Альшанікі, Грушка-Панскае, Мачулішча-Сакаловічы, Шырневічы), а таксама 3 новазаснаваныя слабады. З гэтага пераліку вынікае, што да маёнтка В. нейкім чынам была далучана тэр. суседняга маёнтка Любавічы (Любанічы), які раней таксама вылучыўся з Друцкага княства. У 1650 Пац аддаў большую частку маёнтка В. ў заклад на 3 гады Івану Казялецкаму за 30 тыс. злотых. Сярод інш. паселішчаў упамінаюцца сяло В. (22 валокі, уніяцкая царква) і мяст. Старая Слабада (відаць, у дакуменце памылка: трэба чытаць «мястэчка Старыя Варанцэвічы і сяло Слабада»). Але Пац быў не адзіным уладальнікам В. Пасля смерці яго жонкі Хрысціны адна частка маёнтка адышла, верагодна, да сына яе сястры Ганны, старосты ўшпольскага Аляксандра Нарушэвіча, другая, пасля смерці Паца (1654),— да яго брата Дамініка Казіміра (памёр у 1665), потым — да 2 дачок апошняга Ганны (жонка Марцыяна Валовіча) і Гілярыі (жонка Яна Зяновіча). У падымным тарыфе 1667 паказаны як уласнасць пані Зяновічавай. Увесь маёнтак у той час налічваў 107 дымоў. У 1671 Гілярыя з сынамі Ганны панамі Валовічамі прадалі свае правы на В. далёкаму родзічу гетману Міхалу Казіміру Пацу (каля 1624—82). На той момант В. фактычна былі закладзены Святадухаўскаму кляштару ў Вільні, і Пац выкупіў іх толькі ў 1678. Крыху раней ён набыў і частку В., што належала А. Нарушэвічу, сабраўшы т. ч. маёнтак у адзінае цэлае. Пасля смерці Паца В. дасталіся сынам яго брата Гераніма Дамініка — Пятру Міхалу і Яну Казіміру Пацам. Пасля іх смерці (абодва ў 1696) уладальнікамі В. сталі малалетнія сыны Яна Казіміра — Юзаф і Пётр. У 1772 В. пры падзеле спадчыны трапілі да Пятра (памёр у 1756), потым да яго сына Юзафа (каля 1735—97), апошняга прадстаўніка галіны Пацаў. У 1772 В. далучаны да Расійскай імперыі. Перайшлі ва ўласнасць Мікалая Воўка. У 1785 належалі яго сынам Казіміру і Самуэлю. Сяло В. налічвала 39 двароў, 288 ж. Да маёнтка належалі таксама вёскі Баркова Слабада, Башарова, Клімава, Лабачанкі, Любанічы, Старкава. Уваходзілі ў Копыскі, з 1861 у Аршанскі пав. Магілёўскай губ. У 1861 у час адмены прыгоннага права сяло В. ўвайшло ў Старасельскую вол. Аршанскага пав. Панскай уласнасцю застаўся толькі маёнтак (фальварак), які належаў памешчыкам Багушэўскім і Воўку-Ланеўскаму, з 1873 — Ганіпроўскім. Паводле перапісу 1897, В. складаліся з 4 асобных паселішчаў — панскага двара, 2 сёл з аднолькавай назвай В. (у адным 16 двароў, 71 ж., у другім 7 двароў, 39 ж.) і аднайменнай вёскі (39 двароў, 185 ж.). У кожным сяле была царква. З 20.8.1924 вёска В. ў Воўкавіцкім сельсавеце. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 97 двароў, 235 ж. (1970). Сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, аддзяленне сувязі, бальніца, магазін, сталовая (1992). Брацкая магіла сав. воінаў і партызан, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну.

*Літ.*: Wolff J. Pacowie: Materyjały historyczno-genealogiczne. Petersburg, 1885.

*В. Л. Насевіч.*

**ВАРАНЧУ́К** Андрэй Якаўлевіч [н. 2(15).6.1915, в. Горваль Рэчыцкага пав. Мінскай губ., цяпер Рэчыцкага р-на], Герой Сав. Саюза (1943). Працаваў настаўнікам, інспектарам райана. У Чырв. Арміі з 1938. Скончыў Рэчыцкі педтэхнікум (1932), артыл. школу ў Куйбышаве (1939), курсы малодшых лейтэнантаў (1942). Удзельнік баёў на р. Халхін-Гол у 1939. На фронце з 1941, камандзір батарэі, дывізіёна, нач. артылерыі стралк. палка. Удзельнік Курскай бітвы, вызвалення Украіны. Вызначыўся 15—17.10.1943 пры фарсіраванні Дняпра каля Лоева. Батарэя, якой камандаваў лейтэнант В., знішчыла 5 варожых агнявых пунктаў, фарсіравала раку, на плацдарме адбіла 4 контратакі праціўніка. На Пд ад Рэчыцы батарэя адбіла контратаку 2 узмоцненых батальёнаў праціўніка, што спрыяла паспяховаму наступленню сав. войск. Скончыў Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1947). Да 1960 у Сав. Арміі, палкоўнік. Скончыў Кіеўскі ун-т (1965).

**ВАРАНЯ́НСКІ** Васіль Трафімавіч [12(25).8.1901, с. Дзіканька Палтаўскай губ.— вер. 1943], адзін з кіраўнікоў партыз. руху на Беларусі ў Вял. Айч. вайну. Скончыў Палтаўскае фельчарскае вучылішча ў 1919. У Чырв. Арміі з 1919. Удзельнік грамадз. вайны, баёў на воз. Хасан у 1938. У вер. 1941 арганізаваў партыз. групу, з лютага 1942 камандзір атрада «Мсцівец», з вер. 1942 партыз. брыгады «Народныя мсціўцы» Мінскай вобл. (пасля смерці В. брыгадзе прысвоена яго імя). Яго імем названы вуліцы ў Мінску і г. п. Плешчаніцы Лагойскага р-на.

**ВАРАПА́ЕВА**, гарадскі пасёлак у Пастаўскім р-не, цэнтр саўгаса «Варапаева». За 27 км на У ад Пастаў. Чыг. вузел (лініі на Лынтупы, Друю, Крулеўшчыну), аўтадарогай злучаны з Глыбокім і Паставамі. 4 тыс. ж. (1992).

У 19 ст. вёска ў Пастаўскай вол. Дзісенскага пав. Віленскай губ.; існавалі заезны дом, млын, сукнавальня. У 1921—39 В. ў складзе Зах. Беларусі знаходзілася ў Польшчы, у Дзісенскім пав. З 1939 у складзе БССР, з 1940 у Дунілавіцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 да 4.7.1944 акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, разбурана. З 8.6.1950 гар. пасёлак, цэнтр Дунілавіцкага р-на. З 20.1.1960 у Глыбоцкім, з 25.12.1962 у Пастаўскім р-нах. 4,2 тыс. ж. (1969). Працуюць дрэваапрацоўчы камбінат, з-д жалезабетонных вырабаў, хлебазавод. У пасёлку сярэдняя і дзіцячая муз. школы, 2 дашкольныя ўстановы, Дом культуры, кінатэатр, 3 клубы, 2 б-кі, аддз. сувязі, бальніца, паліклініка. Брацкая магіла сав. воінаў і партызан, помнік землякам, што загінулі ў Вял. Айч. вайну. Захаваўся парк канца 19 — пач. 20 ст.

І. К. Варапаеў.

**ВАРАПА́ЕЎ** Іван Кірылавіч [7(20).4.1905, в. Трубільня Чэрыкаўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Краснапольскага р-на — 11.11.1959], генерал-маёр артылерыі (1944), Герой Сав. Саюза (1944). Працаваў на з-дах Гомеля. У Чырв. Арміі з 1927. Скончыў Акад. курсы ўдасканалення камсаставу (1934). Удзельнік нац.-рэв. вайны ў Іспаніі (1936—39), вызвалення Зах. Беларусі ў 1939, сав.-фінляндскай вайны 1939—40. З чэрв. 1941 на Зах., Паўд.-Зах., 3-м Укр., 1-м Бел. франтах, камандаваў артыл. палком, артылерыяй дывізіі, корпу-

са. Удзельнік баёў пад Мінскам, на Бярэзіне ў 1941, Сталінградскай і Курскай бітваў, вызвалення Беларусі, Украіны, Польшчы, баёў на тэр. Германіі. Вызначыўся пры фарсіраванні Віслы. У жн. 1944 артыл. агнём забяспечыў прыкрыццё пераправы сав. часцей, асабіста кіраваў пераправай гармат. За месяц наступальных баёў артылерыя корпуса пад яго камандаваннем знішчыла 106 танкаў і самаходных гармат, 172 мінамёты і гарматы ворага. У 1946 скончыў Ваен. акадэмію Генштаба. Да 1950 у Сав. Арміі. Яго імем названа вуліца ў г. п. Краснаполле, школа ў в. Клясін Краснапольскага р-на.

**ВАРВАШЭ́НЯ** Іван Дзянісавіч (31.12. 1904, в. Быстрыца Слуцкага пав., цяпер Капыльскі р-н — 4.3.1957), партыйны і дзяржаўны дзеяч БССР, адзін з арганізатараў і кіраўнікоў парт. падполля і партыз. руху на тэр. Мінскай вобл. ў Вял. Айч. вайну. У 1925—28 на камсамольскай рабоце. Скончыўшы Маскоўскі ін-т інжынераў чыг. транспарту (1934), працаваў нам. начальніка, нач. дыстанцыі Зах. чыгункі. У 1939—41 заг. аддзела, сакратар па транспарце Мінскага абкома КП(б)Б. У Айч. вайну з 21.7.1941 да мая 1943 сакратар *Мінскага падпольнага абкома КП(б)Б*, адначасова са жн. 1942 да крас. 1943 сакратар *Слуцкага падпольнага міжрайкома КП(б)Б*, камісар партыз. злучэння Слуцкай зоны. З 1944 сакратар Мінскага абкома, з 1950 1-ы сакратар Мінскага гаркома КПБ. Кандыдат у чл. ЦК КПБ у 1949—52, чл. ЦК КПБ у 1952—56. Дэп. Вярх. Савета БССР у 1947—57. Яго імем названа вуліца ў Мінску.

**ВА́РКАЧ** Мікалай (? — ?), аўстрыйскі дыпламат і падарожнік, які ў якасці пасла Свяшчэннай Рымскай імперыі наведаў Маскву ў 1593; аўтар «Апісання падарожжа ў Маскву...», дзе зафіксаваў звесткі пра гарады і мястэчкі Беларусі, праз якія праязджаў. Яго шлях у Маскву пачаўся ў ліп. 1593. 9 жн. ён начаваў у Гродне і адзначыў, што гэта каралеўскі горад, які ляжыць на суднаходнай р. Нёман, з добра разбудаваным каралеўскім замкам, раскошнымі пакоямі, дзе любіў жыць, адпачываць і дзе памёр польскі кароль Стэфан Баторый. 17 жн. В. быў у Вільні, у замку паказваў падстаросце Мікалаю Яновічу прапускную каралеўскую грамату. У замак неабходна было праязджаць паміж апранутымі ў сіняе адзенне 60 гайдукамі з ружжамі. 21 жн. В. начаваў у Маладзечне, дзе адзначыў даволі вял. драўляны замак. 23 жн. праехаў Лагойск — «горад з дрэнным драўляным замкам ля ракі Гайны». 24 жн. спыніўся ў Барысаве — «даволі вялікім горадзе, але з вельмі маленькімі будынкамі... паблізу яго даволі вялікі замак, увесь выбудаваны з дрэва». Праязджаючы цераз Начу, адзначыў, што паселішча ўзнікла за 9 гадоў да яго прыезду, г. зн. у 1584. 28 жн. пасольства спынілася ў Оршы, дзе вял. замак, часткова абнесены мурам, абмываўся водамі Дняпра і Аршыцы. 31 жн. аршанскі староста Андрэй Сапега даваў у гонар госця банкет, а назаўтра ў пасла на вячэры быў кн. Юрый Горскі, які падараваў В. 5 вазоў сена, 2 бочкі аўса і бочку піва. Толькі 10 верасня В. пакінуў хлебасольную Оршу. У той жа дзень заначаваў у Дуброўне ў карчме яўрэя і, адзначыўшы тут вял. драўляны пагранічны замак, выехаў у бок Масквы.

*Тв.:* Описание путешествия в Москву посла римского императора Николая Варкоча, с 22 июля 1593. М., 1875.

*М. А. Ткачоў.*

**ВАРЛАА́М** [свецкае імя Шышацкі Рыгор; 1750, в. Красілаўка, Чарнігаўская вобл. Украіны — 1821(23?)], дзеяч праваслаўнай царквы. Скончыў Пераяслаўскую духоўную семінарыю і Кіеўскую духоўную акадэмію. З 1774 выкладчык, пазней рэктар Пераяслаўскай духоўнай семінарыі. У 1776 прыняў манаства, у 1780—95 ігумен і архімандрыт манастыроў у Расіі, на бел. і літ. землях Рэчы Паспалітай. У 1789 высланы за адмову даць прысягу польск. каралю і дзяржаве. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай 1793 вярнуўся на Беларусь, адзін з супрацоўнікаў мінскага архіепіскапа Віктара (В. С. Садкоўскага), садзейнічаў вяртанню ўніятаў да праваслаўя. З 1795 вікарны епіскап жытомірскі (пад уладай мінскага архіепіскапа), з 1799 епіскап зноў утворанай Валынскай епархіі. З 1805 епіскап, з 1808 архіепіскап магілёўскі і віцебскі. Пад час Айч. вайны 1812 застаўся ў акупіраваным французамі Магілёве, прысягнуў Напалеону, удзельнічаў ва ўрачыстых набажэнствах у дні нараджэння апошняга і імператрыцы Марыі Луізы. Загадаў служыць набажэнствы за Напалеона ў Мсціславе, Чавусах, Быхаве і Чэрыкаве. Пасля выгнання французаў па справе аб здрадзе В. і 5 членаў Магілёўскай кансісторыі ўтворана следчая камісія на чале з разанскім архіепіскапам Феафілактам (Ф. Г. Русанавым), пасля даклада якой указам Аляксандра І ад 1(13).5.1813 В. пазбаўлены сану і свяшчэнства і як просты манах сасланы ў Ноўгарад-Северскі і Спаса-Праабражэнскі манастыр. Каштоўнай крыніцай для вывучэння біяграфіі В., а таксама гісторыі Магілёва і епархіі ў пачатку 19 ст. з'яўляюцца «Запіскі ігумена Арэста» — помнік, блізкі да позняга бел. летапісання (рукапіс у бібліятэцы АН Літвы).

*Літ.:* Записки игумена Ореста // Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси. Вильна, 1867—71. Т. 2, 5; Гаврилов А. В. Дело о поступках Могилёвского архиепископа Варлаама во время нашествия французов в 1812 г. // Сборник Археологического ин-та. Спб., 1879—80. Кн. 2—3; Соколов О. Варлаам Шишацкий, бывший архиепископ Могилёвский и Витебский: (Ист. очерк). Вильна. 1883.

*В. В. Антонаў.*

**ВАРНЯ́НЫ**, вёска, цэнтр сельсавета ў Астравецкім р-не. За 14 км на Пн ад Астраўца, 19 км ад чыг. ст. Гудагай. 1310 жыхароў, 445 двароў (1992).

У пісьмовых крыніцах згадваецца з 1391. У 1397 называецца ў ліку паселішчаў ВКЛ, якія належалі Ягайлу і перадаваліся Віленскаму капітулу. У 1462 Марына Сангайлава заснавала ў В. касцёл. У 1-й чвэрці 16 ст. маёнтак В. быў уласнасцю князёў Пронскіх і Свірскіх. У пач. 16 ст. Свірскія пабудавалі тут новы касцёл. У 1-й пал. 16 ст. часткай маёнтка ў В. валодалі Чыжы (Чыжэвічы), з канца 16 ст. да 1860 маёнтак быў уласнасцю Абрамовічаў. У канцы 16 ст. ваявода смаленскі Ян Абрамовіч заснаваў у В. кальвінскі збор, пры ім шпіталь і школу, якія дзейнічалі да 1654. З 1688 мястэчка Віленскага пав. У 2-й пал. 18—1-й пал. 19 ст. цэнтр В. рэканструяваны на аснове рэгулярнай ансамблевай забудовы. У 1880-я гады ў В. 24 дамы, 249 жыхароў, касцёл, малітоўны дом, школа, прытулак, 18 крам, карчма; адбываліся штотыднёвыя таргі і 12 кірмашоў на год. Пры маёнтку працавалі млын, цагельня, бровар. З 2-й пал. 19—1-й чвэрці 20 ст. ўласнасць Снядэцкіх і Хамінскіх. У час 1-й сусв. вайны В. з 1915 акупіраваны германскімі войскамі, у 1919—20 заняты польскім войскам. З 1921 у складзе Польшчы, у Ашмянскім пав. Віленскага ваяв. З 1939 у БССР, з 12.10.1940 цэнтр сельсавета Астравецкага р-на. У час Вял. Айч. вайны з чэрв. 1941 да ліп. 1944 акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 25.12.1962 у Ашмянскім р-не, з 6.1.1965 зноў у Астравецкім р-не. У 1970—1284 жыхары, 341 двор. Цэнтр с.-г. прадпрыемства «Варняны»; школа, клуб, амбулаторыя, 7 магазінаў. Захавалася частка ансамблевай забудовы 18—19 ст.— Георгіеўскі касцёл, будынак плябаніі, дом аптэкара, жылыя дамы. Брацкая магіла сав. воінаў і партызан, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну.

*Літ.:* Документы Московского архива Министерства юстиции. М., 1897. Т. 1. С. 86—87.

*В. У. Шаблюк.*

**ВАРО́НІН** Мікалай Мікалаевіч [30.11(13.12).1904, г. Уладзімір — 4.4. 1976], рускі археолаг і гісторык мастацтва. Д-р гіст. навук (1945), праф. (1946). Скончыў Уладзімірскі ін-т нар. асветы (1923), Ленінградскі ун-т (1926). У 1932—76 навук. супрацоўнік Дзярж. акадэміі гісторыі матэрыяльнай культуры (з 1959 Ін-т археалогіі АН СССР). Вывучаў гісторыю культуры і дойлідства гарадоў Стараж. Русі. У 1949 рабіў раскопкі на Замкавай Гары ў Гродне, выявіў рэшткі муроў 12 ст., храм з маёлікавай падлогай, жылыя будынкі. Вывучаў збудаванні і фрэскі Бельчыцкага Барысаглебскага манастыра ў Полацку. Разам з П. А. Рапапортам вывучаў дойлідства Смаленска 12—13 ст., выявіў своеасаблівую смаленскую школу дойлідства. Арганізатар выдання, рэдактар і адзін з аўтараў «Гісторыі культуры Старажытнай Русі» (т. 1—2, 1948—51). Дзярж. прэмія СССР 1952, Ленінская прэмія 1965.

*Тв.:* Древнее Гродно: (По материалам археол. раскопок 1932—1949 гг.). М., 1954; Бельчицкие руины (к истории полоцкого зодчества XII века) // Архитектурное наследство. М., 1956. Вып. 6; Зодчество Северо-Восточной Руси XII—XV веков. Т. 1—2.

М 1962, Зодчество Смоленска XII—XIII вв Л, 1979 (разам з П А Рапапортам).

*Літ* Вагнер Г К Николай Николаевич Воронин // Культура Древней Руси М, 1966; Яго ж К 60-летию Николая Николаевича Воронина // Сов археология 1964 № 4 *Т М Каробушкіна*

**ВАРО́НІНА,** бескурганны могільнік за рубінецкай культуры ў цэнтры в Вароніна Жыткавіцкага р-на У 1952—54 даследаваў 50 пахаванняў Ю. У. Кухарэнка. Пахавальны абрад — трупапаленне за межамі могільніка. Кальцыніраваныя косці змешчаны ў прадаўгаватых (арыентаваны на З — У) або круглых ямах ва ўсх. частцы магіл (у 2 пахаваннях — у пасудзінах-урнах). Пахавальны інвентар — гліняныя, пераважна глянцаваныя пасудзіны розных форм (розная колькасць у кожным пахаванні) Знойдзеиы 18 драцяных фібул, з іх 7 зарубінецкага тыпу з трохвугольным шчытком, бронзавыя шпількі з кальцавымі і пляската-спіралевымі галоўкамі і спіралепадобныя бранзалеты, жал. кольцы і нажы, спражкі, бронзавая трапецападобная падвеска, сіняя шкляная пацерка з муаравым арнаментам Па-за межамі пахаванняў выяўлены рэшткі грубаляпных і глянцаваных пасудзін, упрыгожаных часткова баразенкамі, зашчыпамі, уціскаінямі, расчосамі, наляпнымі валікамі, 2 бронзавыя шпількі і фібула з трохвугольным шчытком, 3 гліняныя праслішы, абломкі пляскатых вечак. За 300 і 800 м на Пн ад вескі ў 1961 адкрыты 2 селішчы зарубінецкай культуры і сярэднявечча.

*Літ* Кухаренко Ю В Памятники железного века на территории Полесья М, 1961 *А А Егарэйчанка*

Бронзавыя фібулы (1—4, 7), бранзалет (5) і скроневае кольца (6) з бескурганнага могільніка Варонїна.

**ВАРО́НІЧЫ,** Варонеч, веска, цэнтр сельсавета ў Полацкім р-не на р. Ушача. За 22 км на ПдЗ ад Полацка, 16 км ад чыг ст. Ветрына, 543 жыхары, 243 двары (1992). Упамінаецца ў 1552 як сяло «Вороноч» Полацкага ваяв. ВКЛ. Частка сяла — 15 дымоў сялян-*дольнікаў* — была ўласнасцю некалькіх мяшчан Полацка, якія са свайго маентка выстаўлялі ў войска ВКЛ аднаго ўзбр конніка. 33 дымы такіх сялян належалі полацкаму уладыку. У гэтай жа частцы сяла жылі 2 путныя баярыны і 4 *агароднікі* У гады Лівонскай вайны 1558—83, пасля захопу ў 1563 Полацка войскамі Івана IV Грознага, В. сталі адным з фарпостаў абароны ВКЛ У сувязі з гэтым яны былі ўключаны ў склад дзярж уладанняў, а ў 1566 полацкі гараднічы Ф Б Жук пачаў тут будаўніцтва замка Навапасяленцам давалася «воля» — вызваленне ад павіннасцей на 12 гадоў. У 1579, пасля выгнання захопнікаў з Полацкага ваяв., В. вернуты праваслаўнай царкве. Буд-ва замка, значнае павелічэнне колькасці жыхароў садзейнічалі пераўтварэнню сяла ў мястэчка. У 1601 у ім 37 дымоў, царква Раства Багародзіцы каля р. Ушача, на гары стаяў замак У далейшым мястэчка зноў ператварылася ў сяло. У выніку 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) В. адышлі да Расійскай імперыі. У 19 ст цэнтр воласці Лепельскага пав 134 ж., 20 двароў, пачатковая школа, бальніца, царква, касцел. У пач. 20 ст. каля 300 ж., 57 двароў. З 28.2.1919 у Полацкім пав., з 15.2.1923 у Акцябрскай воласці. З 20 8.1924 і з 12.2.1935 цэнтр сельсавета Ветрынскага, з 8 7 1931 і з 25.12 1962 Полацкага р-наў У 1941 у В. 170 двароў. У Вял. Айч. вайну ў пач ліп. 1941 акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў лют. 1942 спалілі 68 двароў і 500 чал. Недалека ад вескі дыслацыраваўся партыз. атрад імя С. Г. Лазо У крас.—маі 1944 у час блакады фашыстамі *Полацка-Лепельскай партызанскай зоны* тэр. Варонїцкага сельсавета абараняў Смаленскі партыз полк. Вызвалены ў чэрв. 1944 у ходзе *Полацкай аперацыі 1944.* У 1970 511 ж., 163 двары. Цэнтр саўгаса «Варонічы». Камбінат быт абслугоўвання, сярэдняя школа, клуб, б-ка, бальніца, аптэка, 3 магазіны, аддз сувязі. Брацкая магіла сав. воінаў і партызан, помнік вучням і настаўнікам мясцовай школы, якія загінулі ў Вял Айч вайну, і на месцы гібелі сав. летчыкаў.

*М Ф Спірыдонаў, М І Фамін*

Я Варонка.

Білет члена Беларускай Сацыялістычнай Грамады Я Варонкі. 1917 Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь

**ВАРО́НКА** Язэп [Іосіф Якаўлевіч; 4(17).4.1891, Сакольскі пав.— 4.6.1952], беларускі палітычны дзеяч, журналіст, публіцыст Быў вольнаслухачом юрыд. ф-та Пецярбургскага ун-та, выключаны ў 1914 за неўнясенне платы за навучанне. Супрацоўнічаў у пецярбургскіх газетах «Столичные вести», «Воскресная вечерняя газета», час. «Зритель», пісаў вершаваныя творы (друк пад псеўд. Юрый Вегаў). Пасля Лют. рэв. 1917 уступіў у *Беларускую сацыялістычную грамаду*, з чэрв 1917 член яе ЦК. Прадстаўляў бел арг-цыі ў Асобай нарадзе для выпрацоўкі палажэння аб выбарах ва Усерасійскі Устаноўчы сход, удзельнічаў у рабоце Дзярж. нарады (жн. 1917, Масква). У прамове на Усерасійскай дэмакр. нарадзе (вер. 1917, Петраград) ад імя Цэнтр. рады бел. арг-цый выказаўся супраць урадавай кааліцыі сацыяліст партый з буржуазнымі Уваходзіў у склад Часовага савета Расійскай рэспублікі (Перадпарламента) Да снеж 1917 узначальваў камітэт *Беларускага таварыства ў Петраградзе па аказанні дапамогі пацярпелым ад вайны* На II сесіі Цэнтр рады бел. арг-цый (кастр 1917, Мінск) падтрымаў прапановы аб увядзенні аўтаноміі Беларусі явачным парадкам; выбраны камісарам юстыцыі і ўнутр спраў Вял. бел. рады Удзельнічаў у падрыхтоўцы і правядзенні *Усебеларускага з'езда 1917* У лютым — ліп. 1918 старшыня *Народнага сакратарыята Беларусі* і народны сакратар замежных спраў, адзін з ініцыятараў абвяшчэння *Беларускай Народнай Рэспублікі* (БНР) У крас. 1918 разам з інш актывістамі Рады БНР падпісаў тэлеграму кайзеру Вільгельму II з падзякай «за вызваленне Беларусі нямецкімі войскамі ад цяжкага прыгнету, гвалту і анархіі». Рэдагаваў час *«Варта».* З канца 1918 арыентаваўся на Літоўскую тарыбу, разглядаючы яе як натуральнага саюзніка ў барацьбе за бел. дзяржаўнасць; у снеж 1918 — крас. 1920 міністр беларускіх спраў і чл кабінета міністраў Літвы. Лідэр *Беларускай партыі сацыялістаў-федэралістаў*, з ліст. 1922 старшыня т-ва «Беларуская грамада ў Каўнасе» Займаўся выдавецкай і публіцыстычнай дзейнасцю У гіст.-публіцыстычных працах абагульняў асн. факты з гісторыі бел нац. руху ў гады рэвалюцыі і грамадз. вайны, аналізаваў тагачаснае паліт становішча Прытрымліваўся канцэпцыі «двух ворагаў» бел. адраджэння — Расіі і Польшчы Адмоўна ацэньваў палітыку ў нац пытанні як Часовага ўрада Расіі, так і Савета Нар Камісараў. У яго інтэрпрэ-

тацыі Усебеларускі з'езд — гэта Устаноўчы з'езд, які ўвеў у межах Беларусі рэсп лад, замацаваў права народа на зямлю і інш. Ухваляў абвяшчэнне БНР, а ўтварэнне БССР разглядаў як паліт. манеўр, з дапамогай якога бальшавікі імкнуліся «авалодаць розумамі элементаў, што нацыянальна адрадзіліся». Адначасова асуджаў захоп Беларусі войскамі Польшчы, паказваў крывадушнасць палітыкі польскіх акупантаў, выкрываў іх бясчынствы ў дачыненні да мясцовага насельніцтва. У 1923 выехаў у Чыкага (ЗША), дзе пражыў да канца сваіх дзён. Быў адным з пачынальнікаў бел. паліт. руху ў ЗША. Узначальваў Бел.-Амерыканскую нац. асацыяцыю, уваходзіў у кіраўніцтва Бел.-Амерыканскай нац рады. Выдаваў газ. «Белорусская трибуна», веў бел і рус. праграмы на чыкагскім радые.

*Тв* Белорусский вопрос к моменту Версальской мирной конференции Ист -полит очерк Ковна, 1919, Беларускі рух ад 1917 да 1920 году Кароткі агляд 2 выд Коўна, 1920

*Літ* Круталевич В А Рождение Белорусской Советской Республики (На пути к провозглашению республики Окт 1917 — дек 1918 г) Мн, 1975, Его ж Рождение Белорусской Советской Республики (Провозглашение республики Развертывание нац-гос стр-ва Нояб 1918 — февр 1919 г) Мн, 1979, Сташкевич Н С Приговор революции Крушение антисов движения в Белоруссии, 1917—1925 Мн, 1985, Кіпель В Беларусы ў ЗША Мн, 1993 *С С Рудовіч*

**ВА́РСКІ (**Warski**)** Адольф Ежы (сапр. Варшаўскі-Варскі; 20.4.1868 — 21.8 1937), дзеяч польскага рабочага руху, публіцыст Удзельнічаў у арганізацыі Сацыял-дэмакратыі Каралеўства Польскага (1893), потым Сацыял-дэмакратыі Каралеўства Польскага і Літвы (СДКПіЛ), быў чл. яе Гал праўлення. З Ю. Мархлеўскім пачаў выдаваць у Парыжы газ. «Sprawa Robotnicza» («Рабочая справа»), цэнтр. орган партыі. Удзельнік рэв. падзей у Польшчы 1905—07. Пасля аб'яднання СДКПіЛ з РСДРП (1906) увайшоў у склад ЦК РСДРП. Адзін са стваральнікаў *Камуністычнай рабочай партыі Польшчы* [з 1925 Кампартыі Польшчы (КПП)] У 1919—29 чл. ЦК, з 1923 чл. Палітбюро ЦК КПП, з 1928 дэпутат сейма ад кампартыі. Удзельнік 3—6-га кангрэсаў Камінтэрна, І з'езда Кампартыі Зах. Беларусі (ліп. 1928). У 1929 эмігрыраваў у СССР. Працаваў у Ін-це Маркса — Энгельса — Леніна над гісторыяй польскага рабочага руху. Незаконна рэпрэсіраваны ў 1937. Рэабілітаваны пасмяротна.

**«ВА́РТА»**, літаратурна-грамадскі, навук.-гістарычны і эканам. штомесячнік. Выдадзены па ініцыятыве кіраўніцтва БНР у кастр. 1918 у Мінску адзіны нумар на бел мове. Змешчаны публікацыі Я. Варонкі (рэдактар), А. Луцкевіча, К. Езавітава, П. Крачэўскага, якія прысвечаны праблемам дзярж. будаўніцтва, гасп. і культ. развіцця Беларусі, процідзеянню экспансіянай палітыцы з боку бальшавіцкай улады Расіі. Літаратурная частка прадстаўлена бел. творамі У. Сыракомлі («Добрыя весці»), А. Плуга («Кручаная баба»), Язэпа Жукоўскага («Малітва»), Ф. Багушэвіча («Яснавяльможнай пані Арэшчысе»), а таксама апавяданнямі, вершамі М. Гарэцкага, З. Бядулі, А. Паўловіча, творчымі партрэтамі Б. Эпімаха-Шыпілы, Р. Зямкевіча. Змешчаны фотаздымак Нар. сакратарыята Беларусі. *А К Каўка*

**ВА́РТА НАЧНА́Я**, старожа, павіннасць сялян на Беларусі ў 16—19 ст Заключалася ў адбыванні начных дзяжурстваў на панскім фальварку. На В. н. сяляне выходзілі па чарзе, часам яна магла замяняцца грашовым эквівалентам. Напр., сяляне вескі Косценева Слонімскага пав., якой валодаў І. Адынец, у 1578 за В. н. сплачвалі 12 грошаў

*Літ* Лойка П А Прыватнаўласніцкія сяляне Беларусі Эвалюцыя феадальнай рэнты ў другой палове XVI—XVIII ст Мн, 1991 С 35 *П А Лойка*

**ВА́РТБУРГ** Герман, храніст 14 ст. Капелан Лівонскага ордэна, яго ваяўнічы прыхільнік. Аўтар «Хронікі Прускай зямлі», напісанай на лац. мове. Твор ахоплівае гісторыю рыцарства да 1378, сучасныя аўтару падзеі апісваюцца з 1358. В. як апалагет ордэна піша аб яго веліізарных заслугах і бескарыслівых подзвігах на славу хрысціянства, апраўдвае гвалт і разбой «братоў-хрысціян». У хроніцы змешчаны звесткі пра рыцарскія набегі на бел.-літ землі ў 1330, 1332, 1333—34, 1339 і інш.

*Тв*. Chronicon terrae Prussiae // Scriptores rerum Prussicarum Leipzig, 1863 Т 2 *М А Ткачоў*

**ВАРУ́НАК**, умова, абставіны. Тэрмін В. ужываўся ў ВКЛ таксама ў значэннях «ахова», «засцярога», «пастанова», «рашэнне». Напр., у Статуце ВКЛ 1588 арт. 3 раздзела 7 сказана: «Варунок на перенесенье з гроду до земства».

**ВАРША́ЎСКАЕ ГЕ́РЦАГСТВА**, Варшаўскае княства, васальная дзяржава ў сістэме напалеонаўскай імперыі. Створана Напалеонам І паводле *Тыльзіцкага міру 1807* на землях б. Рэчы Паспалітай, адабраных ад Прусіі (у іх ліку паўн.-зах частка сучаснага Гродзенскага р-на з г. п. Сапоцкін). Напачатку займала 1850 кв. міль, падзялялася на 6 дэпартаментаў, якімі кіравалі прэфекты і падпрэфекты. У 1809 да В. г. далучана адабраная Напалеонам ад Аўстрыі тэр. Зах. Галіцыі (919 кв. міль), на якой былі ўтвораны 4 дэпартаменты Канстытуцыяй 1807 абвяшчалася роўнасць усіх падданых перад законам, свабода веравызнання, скасоўвалася прыгоннае права, уводзілася парламенцкая форма кіравання. Парламент герцагства (сейм) складаўся з 2 палат сената і палаты земскіх дэпутатаў. Сейм не меў права заканадаўчай ініцыятывы. Склікаўся ў Варшаве кожныя 2 гады герцагам, якому належала вышэйшая выканаўчая ўлада. Герцагам быў стаўленік Напалеона, саксонскі кароль Фрыдрых Аўгуст І 5 міністраў (ваенны, юстыцыі, фінансаў, паліцыі, унутраных спраў і веравызнанняў) разам з дзярж. сакратаром складалі Дзярж. савет пад старшынствам герцага ці прызначанага ім намесніка. Адміністрацыйны лад, арганізацыя войска, грамадз. кодэкс (Кодэкс Напалеона) устанаўліваліся на французскі ўзор. Войска (30 тыс. чал.) павінна было служыць імператару Францыі Ажыццеўленыя ў герцагстве спробы сац рэформ мелі поспех толькі ў галіне асветы: быў адноўлены Ягелонскі ун-т у Кракаве, заснавана медыцынская школа ў Варшаве, павялічылася колькасць пач школ Сяляне, атрымаўшы асабістую свабоду, трапілі ў эканам. залежнасць ад нядаўніх уладальнікаў, фінансы дзяржавы спусташаліся непасільнымі падаткамі на ваен. расходы. Тагачасная эпіграма трапна характарызавала В. г. «Герцагства варшаўскае, манета пруская, армія польская, кароль саксонскі, кодэкс французскі». На Беларусі існаванне В. г. ўспрымалася неадназначна частка магнатаў і шляхты ставілася да яго прыхільна, іншыя баяліся напалеонаўскіх наваўвядзенняў, асабліва вызвалення сялян. У 1812 В. г. стала базай французскай арміі для нападу на Расію. У студз герцагства выставіла супраць Расіі войска ў 65 тыс. чал., у жніўні — яшчэ 97 тыс. Паражэнне Напалеона прывяло да падзення В. г. Рашэннем Венскага кангрэса 1814—15 яго тэр. падзелена паміж Расіяй, Аўстрыяй і Прусіяй, Кракаў з наваколлем стаў вольным горадам пад пратэктаратам 3 краін.

*Літ* Внешняя политика России XIX — начала XX века Документы Российского МИД Сер 1 1801—1815 гг Т 3 М, 1963, Соловьев С М Император Александр Первый Политика — дипломатия Спб 1877, Сироткин В. Г Дуэль двух дипломатий Россия и Франция в 1801—1812 гг М, 1966 *В А Цяплова*

**ВАРША́ЎСКАЯ АПЕРА́ЦЫЯ 1920**, аперацыя войск Зах. фронту 23 ліп.— 25 жн ў час савецка-польскай вайны 1920 Польскія войскі пасля шэрага паражэнняў у чэрв.— ліп. 1920 на Беларусі і Украіне адыходзілі на захад. 20.7 1920

галоўком С. С. Каменеў даў дырэктыву камандуючым Зах. (камандуючы М. М. *Тухачэўскі,* члены РВС І. С. *Уншліхт,* І. Т. *Смілга,* **Ф. Э.** *Дзяржынскі)* і Паўд.-Зах. (камандуючы А. І. Ягораў, члены РВС І. В. *Сталін,* Р. І. *Берзін)* франтоў працягваць наступленне на Варшаву. Аднак 23 ліп. Каменеў загадаў Паўд.-Зах. фронту наступаць на Львоў, што было тактычнай памылкай. На пачатак аперацыі 4-я, 15-я, 3-я, 16-я арміі і *Мазырская група войск* Зах. фронту займалі рубеж Гродна — Слонім — Пінск. Была пастаўлена задача да 4 жніўня выйсці на рубеж Ломжа — Брэст і 12 жн. авалодаць Варшавай. 27 ліп. 3-і конны корпус (камандзір Г. Дз. *Гай)* разбіў флангавую групу 1-й польскай арміі і заняў г. Асовец, 2 жн.— Ломжу. 15-я армія (камандуючы А. І. *Корк)* і 3-я армія (камандуючы У. С. *Лазарэвіч*), зламаўшы супраціўленне польскіх войск на рэках Нараў і Нужац, авалодалі Беластокам, Бельскам і 7 жн. вымусілі праціўніка адступіць за р. Зах. Буг. 16-я армія (камандуючы М. У. *Салагуб)* 1 жн. авалодала Брэстам і 6 жн. фарсіравала Зах. Буг. Да 10 жн. войскі Зах. фронту выйшлі на рубеж Млава — Пултуск — Седльцы — Любартуў; 13 жн. авалодалі Радзімінам (23 км на ПнУ ад Варшавы), стварыўшы рэальную пагрозу захопу Варшавы. Войскі Паўд.-Зах. фронту ў гэты час наступалі на Львоў. 11 жн. галоўком аддаў загад часова спыніць наступленне на Львоў і перадаць 12-ю армію і 1-ю Конную армію Зах. фронту. Аднак камандаванне Паўд.-Зах. фронту марудзіла з выкананнем загаду, перадача гэтых сіл зацягнулася да 2-й пал. жніўня. Суадносіны сіл змяніліся на карысць польскага боку. Правячыя колы Польшчы пры актыўнай падтрымцы каталіцкага духавенства аб'ядналі насельніцтва, выклікалі ўздым патрыятызму. Абвешчаная сеймам агр. рэформа прыцягнула на бок урада шырокія колы сялянства, што дазволіла паспяхова правесці мабілізацыю ў армію і вярбоўку добраахвотнікаў. Антанта распачала дадатковыя пастаўкі ў Польшчу зброі і боепрыпасаў, памагла правесці перагрупоўку яе войск. Замест Паўн.-Усх. і Паўд.-Усх. франтоў былі створаны: Паўн. фронт (1-я, 5-я і новастворaная 2-я арміі; камандуючы ген. Ю. Гелер), Сярэдні фронт (4-я і 3-я арміі; камандуючы ген. Э. Рыдз-Сміглы, з 14 жн.— маршал *Ю. Пілсудскі)*; Паўд. фронт (6-я польская і Укр. народная армія Пятлюры; камандуючы ген. В. Івашкевіч). Заходняму фронту супрацьстаялі арміі Паўн. і Сярэдняга франтоў. За кошт рэзерваў і новых фарміраванняў колькасць польскіх войск вырасла да 100 — 110 тыс., а Зах. фронт налічваў каля 45 тыс. чал. На гал. напрамку польскія сілы мелі 6-разовую перавагу. Польскае камандаванне падрыхтавала контрудар, які 14 жн. нечакаиа для сав. боку нанесла 5-я армія. 15 жн. польскія войскі занялі Цеханаў, дзе знаходзіўся штаб 4-й сав. арміі. 16 жн. пачалі контрнаступленне войскі

Сярэдняга фронту і выйшлі на рубеж Мінск-Мазавецкі — Седльцы — Бяла-Падляска. З 17 жн. Чырв. Армія пачала агульны адыход, а польскія войскі амаль бесперашкодна заходзілі ў тыл злучэнняў Зах. фронту. 3-і конны корпус, 4-я армія і 2 дывізіі 15-й арміі не змаглі прабіцца на У і адышлі на тэр. Усх. Прусіі, дзе былі інтэрніраваны. Да 25 жн. войскі Зах. фронту адышлі на лінію Ліпск — Свіслач — на ўсход ад Брэста.

В. а. скончылася паражэннем Чырв. Арміі. Асн. прычыны гэтага «цуда на Вісле», як лічаць палякі, сур'ёзныя памылкі сав. камандавання ў ацэнцы ваенна-паліт. становішча і ў планаванні аперацыі. Памылковым быў разлік на рэв. ўздым польскага пралетарыяту і сялянства. Недаацэньваліся сілы польскага боку і пераацэньваліся магчымасці Чырв. Арміі. Не быў вызначаны раён канцэнтрацыі асн. сіл праціўніка, няправільна арганізавана аператыўная пабудова войск. Наступленне было дрэнна забяспечана: адсталі тылы, не хапала транспартных сродкаў, у выніку войскі не мелі ў дастатковай колькасці боепрыпасаў і прадуктаў харчавання. Паражэнне Чырв. Аміі ў В. а. зрабіла ўплыў на ўмовы *Рыжскага мірнага дагавора 1921*.

*Літ.:* Тухачевский М. Н. Поход на Вислу // Тухачевский М. Н. Избр. произведения. М., 1964. Т. 1; Шапошников Б. На Висле: К истории кампании 1920 года. На правах рукописи. М., 1924; Кузьмин Н. Ф. Крушение последнего похода Антанты. М., 1958; Гражданская война в СССР. Т. 2. Решающие победы Красной Армии. Крах империалистической интервенции (март 1919 г. — окт. 1922 г.). М., 1986; Иностранная военная интервенция в Белоруссии, 1917—1920. Мн., 1990.

*П. А. Селіванаў.*

**ВАРША́ЎСКІ НАРАДАВО́ЛЬНІЦКІ ГУРТО́К БЕЛАРУ́СКІХ СТУДЭ́НТАЎ,** нелегальная суполка прыхільнікаў рэвалюцыйнай арг-цыі *«Народная воля»* з ліку ўраджэнцаў Беларусі — студэнтаў Варшаўскага ун-та ў 1882—83. Утварыўся ў канцы 1882 намаганнямі студэнтаў-нарадавольцаў В. Руткевіча, Г. Яцкевіча і В. *Вайніловіча,* якія мелі вопыт нелегальнай работы ў Гродне і Віцебску. Акрамя выхадцаў з Беларусі (больш за 10 чал.) у гуртох уваходзілі і варшавяне (7 чал.) на чале з С. Калішскім. На базе гуртка па даручэнні чл. Выканаўчага к-та «Народнай волі» В. Фігнер створана падп. друкарня на чале з ураджэнцам Гродна М. К. *Янчэўскім.* Пры наладжванні падп. друку і вядзенні рэв. прапаганды гурток падтрымліваў цесныя кантакты з кіраўнікамі польскай рабочай партыі *«Пралетарыят»* (Вялікі) Л. Варынскім, А. Дэмбскім, Э. Плоскім. Шмат увагі гурткоўцы аддавалі тэорыі вызв. руху. Абмяркоўваючы праграмныя дакументы «Пралетарыяту» і *Арганізацыі «Народнай волі» ў Паўночна-Заходнім краі,* большасць іх заявіла пра гатоўнасць «да любой рэвалюцыйнай дзейнасці, акрамя тэрору». Адмова ад тактыкі тэрору была вынікам супрацоўніцтва з «Пралетарыятам», які ў гэты час станавіўся на шлях класавай паліт. барацьбы. Пасля арышту ў Вільні 22.8.1883 кіраўніка Янчэўскага дзейнасць гуртка аслабела, да канца года спынілася. Некаторыя гурткоўцы (В. Разумейчык, М. Манцэвіч і інш.) уступілі ў рады «Пралетарыяту».

*Літ.:* Baumgarten L. Dzieje Wielkiego Proletariatu. Warszawa, 1966; Czerepica W. Związki rewolucjonistów Białorusi i Polski w latach 70—80 XIX wieku. Warszawa, 1985.

*В. М. Чарапіца.*

**ВАСАЛІТЭ́Т** (ад позналац. vassalus васал, vassus слуга), сістэма адносін асабістай залежнасці адных феадалаў (васалаў) ад іншых (сеньёраў або сюзерэнаў) у Зах. Еўропе. Упершыню склаўся ў позняй Франкскай імперыі пры Карле Вялікім (768—814), далейшае развіццё атрымаў у Германіі, Францыі, Англіі. На Беларусі ў класічным варыянце В. не аформіўся, спец. тэрміна для яго абазначэння не было, аднак сістэма васальнай залежнасці існавала. У часы Кіеўскай Русі князі ўступалі паміж сабой у В., калі адзін з іх пагаджаўся лічыцца «сынам» другога (пры раўнапраўных адносінах князі звалі адзін аднаго «братамі»). *Баяры* з'яўляліся васаламі таго князя, якому служылі і ад якога за службу мелі маёнткі. З 11—12 ст. з'явіліся асабістыя дружыны найбуйнейшых баяр з васалаў 3-га ўзроўню. Пагадненні паміж князямі часам прадугледжвалі права баяр мяняць сюзерэна, не трацячы вотчыны, якая заставалася ва ўладаннях іншага князя. У ВКЛ у 13—14 ст. сістэма кіравання асобнымі землямі (княствамі) таксама будавалася на васальнай залежнасці князёў ад вял. князя ВКЛ. Напр., васаламі вял. князя ВКЛ *Альгерда* былі яго сыны і іншыя *Гедзімінавічы,* пасаджаныя на княжанне ў княствах Русі, у т. л. і на Беларусі. Уключэнне некаторых зямель у ВКЛ адбывалася, верагодна, таксама шляхам васальнай прысягі іх уладальнікаў вял. князю ВКЛ. Адначасова кожны князь меў васалаў з ліку баяр, якія звычайна на граматах свайго сюзерэна выступаюць у якасці сведкаў. Некаторыя баяры з'яўляліся васаламі непасрэдна вял. князя ВКЛ. У канцы 14—15 ст. юрыд. правы непасрэдных васалаў вял. князя ВКЛ (князёў, паноў і баяр-шляхты) былі замацаваны ў шэрагу прывілеяў (напр., *прывілеем 1434* вял. князя Жыгімонта Кейстутавіча). *Шляхта* атрымала права прадаваць, мяняць, дарыць свае ўладанні. Васальныя адносіны гэтай групы феадалаў з вял. князем ВКЛ звяліся да абавязку ваен. службы і права падлягаць суду вял. князя ВКЛ або яго намеснікаў. Правы княжацкіх і панскіх васалаў, як і раней, абумоўліваліся іх асабістым пагадненнем з сюзерэнам. У 16 ст. саслоўе шляхты канчаткова афармілася. Усе васалы вял. князя ВКЛ фармальна атрымалі роўныя правы, што было замацавана *Статутам Вялікага княства Літоўскага 1566.* Аднак існавала і двайная васальная залежнасць, пры якой шляхціц дадаткова атрымліваў зямельныя ўладанні ад іншага феадала (звычайна князя або пана) на ўмовах асабістай службы. Баяры, якія мелі маёнткі ў прыватных уладаннях, пераважна ў латыфундыях магнатаў, заставаліся васаламі 2-га ўзроўню.

*В. Л. Насевіч.*

**ВАСЕМНА́ЦЦАТЫ З'ЕЗД КП(б)Б.** Адбыўся 15—20.5.1940 у Мінску; 577 дэлегатаў з рашаючым і 194 з дарадчым голасам ад 59 853 чл. і канд. у чл. партыі. Парадак дня: справаздачныя даклады ЦК КП(б)Б (П. К. Панамарэнка) і Рэвіз. камісіі КП(б)Б (В. Я. Сядых); выбары ЦК і Рэвіз. камісіі КП(б)Б. З'езд вітаў прынящце ў 1939 *Дэкларацыі Народнага сходу Заходняй Беларусі* аб устанаўленні ў Зах. Беларусі сацыяліст. ладу і ўз'яднанні яе з БССР, адзначыў, што тэрыторыя і насельніцтва рэспублікі павялічыліся амаль у 2 разы, але неабходна ачысціць новыя тэрыторыі ад бурж. элементаў, пільна правяраць кіруючыя кадры на «паліт. сталасць». Падвёў вынікі развіцця прам-сці, будаўніцтва, сельскай гаспадаркі за 2 гады, вызначыў план сацыяліст. пераўтварэнняў у зах. абласцях БССР, неабходнасць умацавання зах. рубяжоў краіны. У дакладзе адзначалася праца парт. арг-цый па выяўленні «ворагаў народа», ліквідацыі вынікаў іх злачыннай дзейнасці, неабходнасць больш уважлівага вывучэння марксісцка-ленінскай тэорыі. Выбраны ЦК КП(б)Б з 69 чл. і 45 канд., Рэвіз. камісія з 29 чл. *А. Ф. Макарэвіч, У. М. Міхнюк.*

**ВАСІЛЕ́ВІЦКАЕ ПАТРЫЯТЫ́ЧНАЕ ПАДПО́ЛЛЕ** ў Вялікую Айчынную вайну. Дзейнічала са жн. 1941 да ліст. 1943 на тэр. Васілевіцкага р-на. Кіраўнікі: Ц. М. Астапенка (да ліп. 1942, загінуў), М. С. Белы. Аб'ядноўвала 5 груп (57 чал.): 2 у Васілевічах (кіраўнікі Л. П. Курганская-Сакалова і А. І. Белы), у в. Бабічы (П. А. Астапенка), в. Навінкі (А. Ф. Фралоў), у вёсках Хамічы і Гогалева (С. П. Алісейка). Трымала сувязь з Васілевіцкім і імя Варашылава партыз. атрадамі. Падпольшчыкі прымалі па радыёпрыёмніках і распаўсюджвалі зводкі Саўінфармбюро, вялі агітацыю сярод насельніцтва, здабывалі і перадавалі партызанам зброю, боепрыпасы, медыкаменты, звесткі разведкі, папярэджвалі партызан і насельніцтва пра карныя аперацыі гітлераўцаў, вывелі са строю электрастанцыю ў Васілевічах, падпалілі мэблевую ф-ку ў Бабічах, падарвалі вайск. эшалон на чыг. Калінкавічы — Рэчыца. У барацьбе з ням.-фаш. акупантамі загінуў 31 падпольшчык. У Васілевічах на брацкай магіле падпольшчыкаў пастаўлены абеліск. *А. Ф. Маркава.*

**ВАСІЛЕ́ВІЦКІ РАЁН.** Існаваў у БССР у 1926—27 і 1938—59. Утвораны 8.12.1926 у складзе *Рэчыцкай акругі.* Цэнтр — вёска, з 29.4.1950 гар. пасёлак *Васілевічы.* Пл. раёна 980 км², 23 населеныя пункты; нас. 16 993 чал. (на 1.1. 1925). Падзяляўся на 15 сельсаветаў: Бабіцкі, Васілевіцкі, Галоўкаўскі, Глінкаслабодскі, Залатухскі, Замосцкі, Заходскі, Зашчобскі, Кабылеўскі, Крынкаўскі, Ліскаўскі, Лозкаўскі, Маканавіцкі, Навінкаўскі і Нахаўскі. 9.6.1927

раен перададзены ў склад *Гомельскай акругі*. У сувязі з узбуйненнем раенаў 4.8.1927 В. р. скасаваны, яго тэр. далучана да Рэчыцкага р-на; Маканавіцкі і Зашчобскі сельсаветы перададзены Хойніцкаму р-ну. 20.2.1938 раен адноўлены ў *Палескай вобласці* У яго ўвайшлі 15 сельсаветаў. Бабіцкі, Васілевіцкі, Дуброўскі, Залатухскі, Караваццкі, Какуевіцкі (з 1939 Чкалаўскі), Ліскаўскі, Сведскі і Узножскі з Рэчыцкага р-на, Нахаўскі сельсавет з Мазырскага р-на, Зеляноцкі і Ліпаўскі сельсаветы з Дамановіцкага р-на, Маканавіцкі, Кабылеўскі (з 1939 Першамайскі) і Хобненскі сельсаветы з Хойніцкага р-на На 1.1.1941 уключаў 15 сельсаветаў: Бабіцкі, Васілевіцкі (у 1950 скасаваны), Дуброўскі, Зеляноцкі, Залатухскі, Караваццкі, Ліпаўскі, Ліскаўскі Маканавіцкі (з 1954 Васілевіцкі), Нахаўскі, Першамайскі, Сведскі (з 1951 у Рэчыцкім р-не), Узножскі, Хобненскі, Чкалаўскі. З 8.1. 1954 раен у складзе *Гомельскай вобласці* У 1954 скасаваны Залатухскі, Караваццкі, Ліскаўскі і Узножскі сельсаветы. Скасаваны В р 16.9.1959 Зеляноцкі, Ліпаўскі, Нахаўскі, Чкалаўскі і Хобненскі сельсаветы перададзены ў склад Калінкавіцкага р-на, г. п. Васілевічы, Бабіцкі, Васілевіцкі, Дуброўскі і Першамайскі сельсаветы — у склад Рэчыцкага р-на *М І Камінскі*

**ВАСІЛЕ́ВІЧ** Іван Антонавіч (1894, мяст. Будслаў Віленскага пав. Віленскай губ., цяпер веска Мядзельскага р-на — 24.11. 1937), партыйны і дзяржаўны дзеяч БССР. У 1917—18 старшыня валвыканкома, намеснік, потым камісар па харчаванні Віленскай губ. З 1918 чл. РКП(б)Б, З лют. 1919 нам наркома харчавання Літ.-Бел. ССР, кіраўнік харч забеспячэння Паўд.-Зах. фронту, губхарчкамісар у Екацярынаславе, член РВС Харкаўскай ваен. акругі. Пасля вайны кіраўнік падатковага ўпраўлення Наркамфіна СССР. У 1925 нарком унутр. гандлю, у 1926 нарком фінансаў БССР З вер. 1927 да кастр 1930 2-і сакратар, чл. Бюро ЦК КП(б)Б У 1930—31 у органах Наркамзема СССР У 1932—33 кіраўнік зямельнага ўпраўлення Далекаўсх. краю, кіраўнік Амурскага аблвыканкома. З 1934 заг сельгасаддзела Далекаўсх. крайкома ВКП(б). Чл. ЦВК СССР у 1925—30. 20.6.1937 беспадстаўна арыштаваны, абвінавачаны ў тым, што «з 1933 з'яўляўся членам антысавецкай арганізацыі «правых», якая дзейнічала ў БССР, займаўся шкодніцкай дзейнасцю ў гаспадарчым будаўніцтве», быў «польскім і японскім шпіенам». Рэабілітаваны у 1956 пасмяротна.

**ВАСІЛЕ́ВІЧ** Іван Іванавіч [18(30).6. 1895, в. Падстарынь Слонімскага пав. Гродзенскай губ, цяпер в. Падстарыны Івацэвіцкага р-на — 25.8.1938], савецкі ваен. дзеяч Скончыў Чугуеўскае ваен вучылішча (1916). У 1-ю сусв вайну на Зах. фронце, прапаршчык. Пасля Лют. рэв. 1917 вёў рэв. агітацыю сярод салдат. Чл. КПСС з мая 1917. Удзельнік устанаўлення Сав. улады ў Тульскай губ Са снеж 1918 у Чырв Арміі, камісар палка. У 1921—23 нач палітаддзела дывізіі. З 1929 нач. і ваенком *Аб'яднанай беларускай вайсковай школы* З 1932 камендант умацаванага р-на, з 1936 камандзір 26-га стралк. корпуса

І А Васілевіч.

Я Васілевіч

Асобай Далекаўсходняй арміі. Канд. у чл. ЦК КП(б)Б (1930—32) і чл. ЦВК БССР (1929—32). У 1937 незаконна рэпрэсіраваны, рэабілітаваны пасмяротна. На радзіме — мемарыяльная дошка. *М І Камінскі*

**ВАСІЛЕ́ВІЧ** Язэп (Іосіф) Ігнатавіч [4(16).9.1870, мяст. Крывічы Вілейскага пав., цяпер веска Мядзельскага р-на — 1934 (?)], дзеяч беларускага нац.-вызв. руху, археолаг, педагог. Скончыў настаўніцкую семінарыю, Маскоўскі археал. ін-т (1914), вучыўся ў Маскоўскім юрыд ін-це (1914—17). У 1917 адзін з лідэраў *Беларускай народнай грамады*. На 1-м з'ездзе бежанцаў беларусаў у Маскве (вер. 1917) выступіў з дакладам «Аб палітычным ладзе Беларусі і формах праўлення ў Расіі», у якім выказаўся «за прадастаўленне Беларусі аўтаноміі і за федэратыўны лад у Расіі, у складзе якой будзе заставацца Беларусь». Адзін са стваральнікаў і дырэктар *Будслаўскай беларускай гімназіі* (1917—19). Дэлегат *Усерасійскага з'езда бежанцаў з Беларусі* ў Маскве (ліп. 1918), выступіў з дакладам як прадстаўнік акуправанай Германіяй тэрыторыі У 1919—20 у Маскве. У чэрв. 1920 назначаны заг. інфармацыйнага аддзела ўпраўлення рэўкомаў Зах. фронту. У жн.— кастр. 1920 дырэктар школы ў Будславе. З 1921 дырэктар Белпедтэхнікума ў Мінску, выкладчык археалогіі ў БДУ З 1924 дырэктар музея ў Віцебску. У 1930 арыштаваны па справе «Саюза вызвалення Беларусі» і ў 1931 высланы з Беларусі. Памёр у Башкірыі.

*Тв* Віцебскі дзяржаўны культурна-гістарычны музей // Віцебшчына Віцебск, 1928 Т 2 *В У Скалабан*

**ВАСІЛЕ́ВІЧЫ**, горад у Рэчыцкім р-не. За 54 км на ПдЗ ад Рэчыцы Чыгуначны вузел (лініі на Гомель, Калінкавічы, Хойнікі), аўтадарогамі злучаны з аўтамагістраллю Гомель — Калінкавічы 5,5 тыс ж. (1992).

Тэрыторыя сучаснага горада была заселена яшчэ ў бронзавым веку (2-е — пач. 1-га тысячагоддзя да н э), пра што сведчыць тагачаснае гарадзішча Паводле рэестра гаспадарскай рэвізіі Рэчыцкай воласці за 1560, у В было 17 дымоў і 7 службаў (па 2—3 гаспадаркі), якія таксама з'яўляліся адзінкай абкладання У 18 ст веска Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Расійскай імперыі, цэнтр воласці ў Рэчыцкім павеце. Жыхары займаліся земляробствам і лясным промыслам. Паводле інвентара 1858, агульная плошча казённага маентка В. (уключаў і навакольныя вёскі) 61,4 тыс. дзесяцін, з іх 10,5 тыс дзесяцін — зямлі, прыдатныя для земляробства. Каля 8 тыс. дзесяцін знаходзілася ў карыстанні сялян Поўны надзел мелі 290 сял двароў, палавіну яго — 84 двары, 11 двароў карысталіся толькі агародамі, 5 не мелі зямлі наогул. У 1825 у В. на сродкі вернікаў пабудавана Мікалаеўская царква. У 1866 адкрыта нар. вучылішча (з 1874 атрымала грамадскае памяшканне). У 1860-я гады ў вёсцы 96, у 1897 — 298 двароў, 1724 ж. Эканам. развіццю В. пасля рэформы 1861 спрыяла *Заходняя экспедыцыя па асушэнні балот Палесся 1873—98*· быў павялічаны фонд прыдатных для вядзення сельскай гаспадаркі зямель, пракладзены найкарацейшыя праселачныя дарогі. У 1878 у В. заснавана метэастанцыя для вывучэння кліматычных умоў Палесся З будаўніцтвам чыг. лініі Лунінец — Гомель Палескіх чыгунак В.— чыгуначная станцыя У пач. 20 ст пракладзена чыгуначная лінія на Хойнікі, што спрыяла развіццю В. як гандлевага цэнтра Адсюль у 1892 адпраўлена 100 тыс. пудоў грузаў, атрымана 2 тыс. пудоў, у 1912 адпаведна 2547 тыс. і 188 тыс пудоў (за 20 гадоў вываз павялічыўся больш як у 25 разоў). Вывозілі пераважна дровы і лесабудаўнічыя матэрыялы, прывозілі зерне, соль, газу. У 1890—91 навуч. годзе адкрыта царкоўнапрыходская школа У 1897 у В 5 крам. Штогод 7 снежня адбываўся аднадзённы кірмаш. Напярэдадні 1-й сусв вайны ў В. пачалі дзейнічаць паравы млын, ф-ка шпулек (20 рабочых). Сав. ўлада ўстаноўлена ў ліст 1917 У пач. 1918 веска занята герм. войскамі. У жн. 1918 партыз атрад разграміў у В. ням. гарнізон. З 1919 у складзе Гомельскай губ. Вясной 1920 захоплена польскімі войскамі, у пач. чэрвеня

1920 вызвалена часцямі Зах. фронту. У 1920—30-я гады развівалася прамысл. кааперацыя, дзейнічалі ўчастак Рэчыцкага леспрамгаса, цагельны з-д. З 1924 працаваў лясны тэхнікум (з 1927 лесатэхн школа). У 1929 створаны калгас, адкрыты ўчастковая бальніца, аптэка У 1926—27 і 1937—59 цэнтр *Васілевіцкага раена,* з 4.8 1927 да 20.2.1938 і з 16.9 1959 у Рэчыцкім р-не

У пачатку Вял. Айч. вайны ў ваколіцах В. дзейнічаў знішчальны батальен, на базе якога ў жн. 1941 створаны Васілевіцкі партыз. атрад. 25.8.1941 В. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія пакінулі тут гарнізон (600 салдат і паліцэйскіх). Дзейнічалі *Васілевіцкае патрыятычнае падполле,* падп. райкомы КП(б)Б (7 7—17.11.1943) і ЛКСМБ (1.6 — 17 11.1943) Выдавалася падп. газ. «Сацыялістычная праца». З набліжэннем фронту акупанты ператварылі В. і станцыю ў моцныя апорныя пункты. Вызвалены В. 18.11.1943 часцямі 15-й гвардзейскай кав. дывізіі і 193-й Дняпроўскай стралковай дывізіі 65-й арміі Бел. фронту ў ходзе *Гомельска-Рэчыцкай аперацыі 1943* з удзелам партызан 101-й Даманавіцкай і Васілевіцкай імя Панамарэнкі брыгад. З 29 4.1950 В — гар паселак, цэнтр саўгаса «Васілевічы» У 1959 — 6,4 тыс. ж, 1748 двароў, у 1970 —6,9 тыс. ж. З 19.11.1971 горад. Прамысловыя прадпрыемствы· з-д масла і сухога малака, хлебазавод, цагельны з-д, мэблевы цэх Рэчыцкага вытв. дрэваапрацоўчага аб'яднання, філіял Рэчыцкага камбіната бытавога абслугоўвання, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, цэхі па вытв-сці безалкагольных напіткаў і каўбас, лесаўчастак Мазырскага лесанарыхтоўчага аб'яднання. Лясгас. Аграметэастанцыя, 2 сярэднія школы (у т. л школа-інтэрнат), няпоўная сярэдняя школа, 2 дашкольныя ўстановы, Дом культуры, кінатэатр, 2 б-кі, бальніца. Брацкія магілы сав. воінаў, партызан і падпольшчыкаў (сярод пахаваных Герой Сав. Саюза А. Г. Казлоў), якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, магілкі ахвяр фашызму (за 2,5 км ад горада).

*Х Ю Бельскін*

**ВАСІЛЕ́ЎСКАЯ** Нона Уладзіміраўна (н. 9.10.1939, в. Таржок Невельскага р-на Пскоўскай вобл.), беларускі гісторык. Кандыдат гіст. навук (1982). Скончыла БДУ (1966). З 1966 працуе ў Ін-це гісторыі АН Беларусі. Даследуе культ. пераўтварэнні ў Беларусі ў 1921—41 Адзін з аўтараў «Гісторыі рабочага класа Беларускай ССР» (т. 2, 1985).

*Тв* Формирование производственно-технической интеллигенции БССР, 1921—1941 гг Мн, 1986

**ВАСІЛЕ́ЎСКАЯ** Яўгенія Арцем'еўна (н. 29.11 1926, г. Благавешчанск Амурскай вобл.), беларускі гісторык. Кандыдат гіст навук (1958). Скончыла БДУ (1948) З 1948 у Ін-це гісторыі АН БССР, у 1968—91 на кафедры гісторыі КПСС (з 1990 паліт. гісторыі) БДУ. Працы па гісторыі рабочага класа, развіцці прам-сці Беларусі ў гады 1-й пяцігодкі і ў 1960—70-я гады. Адзін з аўтараў «Гісторыі БССР» (т. 2, 1958; 2 выд 1961), «Гісторыі Мінска» (2 выд. 1967), «Гісторыі Беларускай ССР» (т. 3, 1973, т. 5, 1975)

А М Васілеўскі.

Д М Васілеўскі.

**ВАСІЛЕ́ЎСКІ** Аляксандр Міхайлавіч [18(30).9.1895, с Новая Гольчыха Вічугскага р-на Іванаўскай вобл.—5.12 1977], Маршал Сав. Саюза (1943), двойчы Герой Сав. Саюза (1944, 1945) У арміі з 1915. Скончыў паскораны курс Аляксееўскага ваен. вучылішча (1915), камандзір роты, батальена, штабс-капітан. У Чырв. Арміі з 1919 Удзельнік грамадз. вайны. Скончыў курсы «Выстрал» (1926), Ваен. акадэмію Генштаба (1937). У 1920—31 пам. камандзіра палка, камандзір палка. З 1931 на ўпраўленні баявой падрыхтоўкі РСЧА. З 1937 у Генштабе. З 1940 нам. начальніка, з 1941 нач. аператыўнага ўпраўлення і нам. начальніка Генштаба. З 1942 нач. Генштаба і нам наркома абароны СССР. У 1942 каардынаваў баявыя дзеянні Паўд.-Зах., Данскога і Сталінградскага франтоў па абароне Сталінграда, у 1943 — Варонежскага і Сцяпнога франтоў у Курскай бітве, Паўд.-Зах і Паўд. франтоў пры вызваленні Данбаса, у 1944—4-га Укр. фронту і Чарнаморскага флоту пры вызваленні Крыма У час *Беларускай аперацыі 1944* каардынаваў дзеянні 3-га Бел., 1-га і 2-га Прыбалтыйскага франтоў. У лют. 1945 уведзены ў Стаўку ВГК, камандуючы 3-м Бел. фронтам. З чэрв 1945 галоўнакамандуючы сав. войскамі на Далёкім Усходзе, кіраваў аперацыямі па разгроме японскіх войск у Маньчжурыі, на Сахаліне і Курыльскіх астравах. З 1946 нач. Генштаба, з 1948 нам., 1-ы нам. міністра Узброеных Сіл СССР. У 1949—53 міністр Узброеных Сіл СССР. У 1953—57 1-ы нам., нам. міністра абароны СССР. З 1959 у Групе ген. інспектараў Мін-ва абароны СССР. Чл. ЦК КПСС у 1952—61. Дэп Вярх Савета СССР у 1946—58. Двойчы узнаг ордэнам «Перамога». Урна з прахам В. пахавана ў Крамлеўскай сцяне.

*Тв* Дело всей жизни 5 изд М, 1984

**ВАСІЛЕ́ЎСКІ** Даніла Мінавіч (17.12 1889, в Новае Сяло Віцебскага пав., цяпер Шумілінскі р-н — 8.12.1963), беларускі краязнавец, гісторык, літаратуразнавец. Скончыў Полацкую настаўніцкую семінарыю і Віцебскі настаўніцкі ін-т, настаўнічаў. З 1910 збіраў фальклор на Полаччыне У 1917—19 працаваў у розных установах Полацка, з 1919 інструктар школ на Віцебшчыне, пазней інспектар аддзела нар. асветы ў Оршы, супрацоўнік Інбелкульта. У 1923 арганізаваў Віцебскае губ. бюро краязнаўства, з 1924 нам. старшыні Аршанскага акр. т-ва краязнаўства. У 1930—36 выкладчык і дэкан геагр. ф-та Магілеўскага пед. ін-та З 1932 выкладчык эканомікі на Магілеўскіх рабфаку і ў паліт.-асветным ін-це. Друкаваўся ў час. «Школа и жизнь» (псеўд. М. Дабраведаўскі), газ. «Придвинский край», з 1914 у газ. «Наша ніва» (псеўд. Шчыры, Вітэнь Д.), з 1921 у газ. «Савецкая Беларусь» (пад сапр. прозвішчам і псеўд. Вітэнь Д.). Даследаваў гісторыю рэв. руху, бел. л-ры 1-й пал. і сярэдзіны 19 ст., бел. кнігадрукавання, развіцця мясц. прэсы, розныя краязнаўчыя, гіст., этнагр і сац.-экан. праблемы. Выявіў у архівах і апублікаваў невядомыя каштоўныя архіўныя матэрыялы. Удзельнічаў у раскопках верхнепалеалітычнай стаянкі *Бердыж* 9.12.1936 незаконна рэпрэсіраваны і высланы ў Котлас, потым працаваў буравіком у Варкуце. Пасля вызвалення з 1945 тэхнік-геолаг Варкуцінскага геолага-разведачнага ўпраўлення Апошнія гады жыў у Феадосіі. Рэабілітаваны ў 1956.

*Тв* Культурнае жыцце Віцебску // Сав Беларусь 1924 5 кастр, Навуковая спадчына, пакінутая А П Сапуновым // Тамсама 14 кастр, Беларусізацыя культасветных устаноў Аршанскай акругі // Тамсама 22 лістап, Спадчына мінулага // Тамсама 1925 28 лістап, Паэт Ян Баршчэўскі аб Беларусі (З уласных лістоў яго да пані Карсак) // Арш маладняк 1925 № 2, Новыя матэрыялы творчасці Яна Баршчэўскага // Полымя 1925 № 5, Беларускі нацыянальна-рэвалюцыйны рух на Віцебшчыне ў XIX сталецці // Тамсама, Водгук паўстання дзекабрыстаў на Беларусі // Тамсама 1926 № 2, Крыніцы мінулага Беларусі // Наш край 1926 № 1, З матэрыялаў да археалагічнай карты Аршанскай акругі // Тамсама № 6—7, Помнікі старасветчыны на Аршаншчыне // Тамсама 1927 № 2, З гісторыі аршанскага друку // Тамсама № 6—7, 8—9, Беларускае Вольнаэканамічнае таварыства // Тамсама № 12, Пад аховай роднай песні (З перапіскі Яна Баршчэўскага) // Маладняк 1928 № 1, Сялянства Віцебскай і Магілеўскай губерань у

паўстанні 1863 году // Полымя 1928 № 6, Арцем Ігнатавіч Вярыга і яго літаратурна-грамадская чыннасць // Тамсама 1929 № 6, Экскурсійныя аб'екты Аршаншчыны // Наш край 1929 № 4, Паэма «Тарас на Парнасе» ў краязнаўчым асвятленні // Тамсама № 5, Перспектывы цукраварэння на Беларусі // Тамсама № 8—9, Кумысалячэнне на Беларусі // Тамсама № 12, Краязнаўчая справа ў Магілеўскім раене // Сав краіна 1932 № 12

*Літ* Кісялеў Г В Пошукі імя [Да пытання аўтарства «Энеіды навыварат» і «Тараса на Парнасе»] Мн, 1978, Яго ж Разыскивается классик Мн, 1989, Васілеўская А Памяць // Полымя 1990 № 7 *І У Саламевіч*

**ВАСІЛЕЎСКІ** (Wasilewski) Леан (24.8. 1870, Пецярбург — 10.12.1936), польскі публіцыст, гісторык, дыпламат. Бацька польскай пісьменніцы В. Васілеўскай З 1896 дзеяч Польскай сацыяліст. партыі (ППС). Пасля расколу партыі ў 1906 кіраўнік яе рэв. фракцыі. Рэдактар парт выданняў «Przedświt» («Зара»), «Robotnica» («Работніца»). Друкаваўся пад псеўд. Л. Плахоцкі. У 1918—19 міністр замежных спраў Польшчы, чл розных дэлегацый на міжнар канферэнцыях. З 1924 узначальваў Ін-т вывучэння навейшай гісторыі Польшчы, з 1929 рэдактар час. «Niepodległość» («Незалежнасць»). З 1931 старшыня Ін-та вывучэння нац.-вызв спраў. Аўтар шматлікіх прац, у т. л. «Літва і яе народы» (1907), «Літва і Беларусь» (1912) і інш., у якіх даследаваў развіцце культуры і асветы, гісторыю бел і літоўскага нац -вызв. руху ў 19 — пач. 20 ст., адзначаў працэс беларусізацыі прыгранічнага літ насельніцтва. Пасля 1918 выступаў супраць бел. і укр. нац.-вызваленчага руху, у нац. пытанні падтрымліваў афіц. курс польскіх бурж. улад. У 1897 у штогодніку «Materiały antropologiczno-archeologiczne i etnograficzne» («Матэрыялы антрапалагічна-археалагічныя і этнаграфічныя») апублікаваў «Беларускія загадкі» (128 загадак, сабраных ім у Вілейскім, Лепельскім, Дынабургскім, Барысаўскім і Рагачоўскім паветах).

**ВАСІЛЕЎСКІ** Ягор Васілевіч (н. 1.1. 1922, с. Гарбачова Віцебскага пав., цяпер Віцебскага р-на), Герой Сав Саюза (1946). Працаваў у калгасе. У Чырв Арміі з 1939. Скончыў Віцебскі аэраклуб (1939), Адэскую ваен. авіяшколу (1940). У 1940—42 летчык-інструктар у Сталінградскай ваен авіяшколе. З мая 1943 на Сцяпным, Варонежскім, 2-м Укр. франтах, камандзір эскадрыллі знішчальнага авіяпалка Удзельнік паветр баеў пры вызваленні Белгарада, Харкава, Палтавы, Краменчуга, Кіраваграда, Малдавіі, Румыніі, Венгрыі, Чэхіі, Славакіі, Аўстрыі. Зрабіў 296 баявых вылетаў, правеў 64 паветр. баі, збіў асабіста 21 варожы самалет, 2 у групе Скончыў вышэйшыя лётна-тактычныя курсы камандзіраў эскадрылляў (1950), Ваенна-паветр. акадэмію (1955). Да 1958 у Сав. Арміі, палкоўнік.

**ВАСІЛЁК** Міхась [сапр. Касцевіч Міхаіл Восіпавіч, 1(14).11.1905, в. Баброўня Гродзенскага пав., цяпер Гродзенскі р-н — 3.9 1960], беларускі паэт. У час 1-й сусв вайны выехаў з бацькамі на Тамбоўшчыну У Казлове (цяпер г. Мічурынск) скончыў сярэднюю школу,

М Васілёк

працаваў на чыгунцы. У 1922 вярнуўся на радзіму, займаўся сельскай гаспадаркай. Арганізоўваў на Скідзельшчыне гурткі Т-ва бел. школы, веў культ-масавую работу, уваходзіў у актыў Скідзельскай пав. арг-цыі Бел. сялянска-работніцкай грамады (БСРГ), быў літ супрацоўнікам рэдакцыі час. «Маланка». Вершы пачаў друкаваць у 1926 у радыкальных заходнебел. выданнях. У пач. 1930-х гадоў пасля забароны БСРГ і «Змагання» друкаваўся ў час. «Неман», легальных пракамуніст выданнях «Беларуская газета», «Літаратурная старонка» Удзельнік нелегальнага з'езда Літаратурнага фронту сял-рабочых пісьменнікаў у Вільні (11.12.1933). У сярэдзіне 1930-х гадоў супрацоўнічаў у органах антыфаш. нар. фронту — газетах «Наша воля», «Poprostu» («Папросту»), часопісах «Беларускі летапіс», «Калоссе». У 1936 уступіў у КПЗБ. У 1939 мабілізаваны ў польскае войска, трапіў у ням. палон, дзе з Я. Брылем веў асветную і патрыят.-выхаваўчую работу сярод палонных У жн. 1941 уцек з палону на радзіму. Быў сакратаром Скідзельскага падп. антыфаш к-та, выконваў заданні партыз. разведкі, выступаў у партыз. друку (пад псеўд. Язэп Гром). Пасля вызвалення Беларусі ад ням -фаш. захопнікаў працаваў у скідзельскай раеннай газ. «Чырвоны сцяг» (1944—46), пазней у газ «Гродненская правда». Выдаў з дапамогай Р. Шырмы ў Вільні зборнікі грамадз. лірыкі «Шум баравы» (1929, канфіскаваны ў 1930-я гады польскімі ўладамі), «З сялянскіх ніў» (1937). У рамантычна-прыўзнятых вобразах-сімвалах паэтызаваў вызв. барацьбу «пакутнай старонкі», «сыноў мазолю і раллі». Вершы «Суддзі», «Там краіна мая», «Абцер сталевы плуг на павароце» моладзь чытала на вечарынах, сходах, мітынгах. Друкаваў у часопісах «Маланка», «Асва» і інш. выданнях сатырычныя вершы, у якіх выкрываў крывадушнасць улад, нікчэмнасць іх наймітаў, хаўруснікаў, паслугачоў, асімілянтаў («Эх, каб грошы...», «Перад выбарамі», «Як я пана перанес»). Вершы «У бой на акупанта» і «Нашто, каб вы нас баранілі» сталі баявымі песнямі вызв. руху. Пасляваен. творы В. прасякнуты матывамі радасці мірнага жыцця. У 1992 у Скідзелі (Гродзенскі р-н) адкрыты музей В.

*Тв* Выбраныя творы Мн, 1955, Зоры над Нёманам Мн, 1963, Вершы Мн, 1973, Аўтабіяграфія // Пра час і пра сябе Мн, 1966

*Літ* Пасяўцова М «Я — усяго Васілек» // Наднеманскія былі Мн, 1968, Калеснік У Лёсам пазнанае Выбр літ партрэты і нарысы Мн, 1982

*У А Калеснік*

**ВАСІЛІШКАЎСКІ РАЁН.** Існаваў у БССР у 1940—60. Утвораны 15.1.1940 у складзе Баранавіцкай вобл., з 20.9.1944 у складзе Гродзенскай вобл. Цэнтр — г. п. *Васілішкі*, з 3.8.1954— г. п. *Астрына* Пл. раена 0,7 тыс. км², 264 населеныя пункты (1946) Падзяляўся на 12 сельсаветаў: Астрынскі, Бакштаўскі, Бярозаўскі, Васілішкаўскі, Касцянеўскі, Мотальскі, Навадворскі, Нарашаўскі, Пугачоўскі, Сабакенцаўскі, Шастакоўскі, Шайбакпольскі. 16.7 1954 скасаваны Бярозаўскі і Пугачоўскі сельсаветы, Сабакенцаўскі сельсавет перайменаваны ў Першамайскі (в. Сабакенцы перайменавана ў в. Першамайская). 20.1.1960 В. р. скасаваны. Бакштаўскі, Васілішкаўскі, Мотальскі, Першамайскі і Шастакоўскі сельсаветы перададзены ў склад Радунскага р-на; Астрынскі, Касцянеўскі, Навадворскі, Нарашаўскі, Шайбакпольскі і г. п. Астрына — у склад Шчучынскага р-на. *М І Камінскі*

**ВАСІЛІШКІ**, веска ў Шчучынскім р-не, на р. Лебяда. Цэнтр сельсавета. За 32 км на Пн ад Шчучына, 17 км ад чыг. ст Скрыбаўцы. 2678 ж., 1184 двары (1992)

У пісьмовых крыніцах упамінаецца з 1-й пал. 15 ст. У 15—16 ст. староства ў складзе каралеўскіх сталовых уладанняў Сярод старостаў васілішскіх 15—16 ст Ян Стэцковіч, Ян Радзівіл, Васіль Глінскі, Станіслаў Кішка, Ян Шчытовіч, Якуб Кунцэвіч, Мікалай Радзівіл. З 1486 мястэчка ў Лідскім пав. У канцы 15 — пач. 16 ст. цэнтр павета У 1489 па загадзе вял. кн ВКЛ і караля Польшчы Казіміра Ягелончыка ў В. пабудаваны першы драўляны касцел. У 1658 суддзя земскі лідскі Марцін Лімонт заснаваў касцел і кляштар дамініканцаў (паводле інш. звестак — базыльян, закрыты ў 1832). У 1769 пры кляштары пабудаваны касцел Яна Хрысціцеля. У 1659 у В. адбыўся соймік Лідскага пав. У 1706 тут некаторы час знаходзілася рэзідэнцыя караля Рэчы Паспалітай С. Ляшчынскага. У 2-й пал 18 ст. васілішскім старостам быў віленскі ваявода Міхал Агінскі. З 1795 у складзе Расійскай імперыі, цэнтр воласці Лідскага пав У 1866 у мястэчку 244 дамы, 1841 жыхар; царква, касцел, сінагога, нар. школа, паштовая станцыя; раз у тыдзень праводзіўся кірмаш. У 1905 было 1983 жыхары. У час 1-й сусв. вайны з 1915 В. акупіраваны германскімі войскамі. З 1921 у складзе Зах. Беларусі знаходзіўся ў Польшчы. З 1939 у БССР, з 15.1 1940 цэнтр *Васілішкаўскага раена* У чэрв. 1941— ліп. 1944 В акупіраваны ням.-

фаш. войскамі. Да 3.8.1954 В.— гар. пасёлак. З 20.1.1960 у Радунскім, з 25.12. 1962 у Шчучынскім р-не. У 1970 у В. 909 ж., 300 двароў; школа, Дом культуры, аддз. сувязі. Брацкая магіла сав. воінаў, магіла ахвяр фашызму, помнік землякам, што загінулі ў Вял. Айч. вайну. Захаваўся помнік архітэктуры — касцёл Яна Хрысціцеля. *В. У. Шаблюк.*

**ВАСІЛЬ ПАЛАЧАНІН** (?—?), полацкі баярын. Упамінаецца ў Іпацьеўскім летапісе пад 1146, калі браў удзел разам з іншымі баярамі ў міжусобных сварках паўд.-рускіх князёў. Гэта ўпамінанне пацвярджае, што радаслоўная баярскіх родаў у Полацку бярэ пачатак з 12 ст.

*Літ.:* Ипатьевская летопись // ПСРЛ. М., 1962. Т. 2.

**ВАСІЛЬЕВА** Настасся Якаўлеўна (?—?), беларускі этнограф, фалькларыст і краязнавец 2-й пал. 19 ст. У 1874—80 жыла на Палессі, некаторы час працавала валасным пісарам у Мазырскім пав. З 1880 у Бабруйску. Даследавала побыт, матэрыяльную культуру, абрады, фальклор сялян, вывучала гісторыю і этнаграфію вёсак Мазыршчыны. У «Минских губернских ведомостях» і «Виленском вестнике» у 1877—81 надрукавала артыкулы «Вясельныя абрады ў раёне Грабаўскай воласці Мазырскага павета», «Кароткі нарыс вёскі Грабава Мазырскага павета», «Сялянскія памінкі ў Мазырскім павеце», «Князь», ці «Жыд-возера» (легенды), «Калядныя святы ў сялян Мазырскага павета», «Нататка пра абшчыннае земляробства ў сялян Мінскай губерні», «Нататка, як праводзяць вясну сяляне Мінскай губерні», «Веснавыя песні і абрады ў вёсках Мазырскага павета», «Легенды і павер'і ў Мінскай губ.», «Нататка пра побыт сялян Мазырскага павета», «Кірмашы ў Мазырскім павеце», «Знахары», «Вытрымкі з жыцця беларускай жанчыны», «Вёска Грабава» і шмат іншых пра жыццё і побыт бел. сялян. Супрацоўнічала з Мінскім губернскім статыстычным камітэтам, Т-вам аматараў прыродазнаўства, антрапалогіі і этнаграфіі пры Маскоўскім ун-це, П. В. *Шэйнам* і інш. Выступала за развіццё асветы, нар. мастацтва, раўнапраўе жанчын і інш. *А. Ю. Лозка.*

**ВАСІЛЬЕЎ** Аляксандр Карпавіч (12.9. 1904, г. Рэчыца — 23.4.1956), поўны кавалер ордэна Славы. На фронце з 1942. Камандзір сапёрнага аддзялення ст. сяржант В. вызначыўся ў баях за вызваленне Польшчы і на тэр. Германіі. 14—16.1. 1945 з групай сапёраў разміраваў 2 мінныя палі, зрабіў праходы ў драцяных загародах, асабіста зняў 75 мін; 5—7.2.1945 пераправіў на лодцы цераз Одэр 250 пехацінцаў і 40 скрынак з боепрыпасамі; 10.3.1945 у баях за расшырэнне плацдарма на левым беразе Одэра пад агнём праціўніка зрабіў 3 праходы ў мінных палях для сав. разведчыкаў; у ноч на 16.4.1945 зрабіў 2 праходы ў мінных палях, зняў 65 мін; у ходзе наступлення

А. К. Васільеў.

размініраваў шашу Лебус — Франкфуртна-Одэры. Пасля вайны на гасп. рабоце.

**ВАСІЛЬЕЎ** Дзям'ян Міхайлавіч (каля 1890, в. Коцелева Чавускага пав. Магілёўскай губ.—?), поўны Георгіеўскі кавалер. Служыў у 99-м пях. Івангародскім палку, радавы. У 1-ю сусв. вайну камандзір узвода, падпрапаршчык. Узнагароджаны Георгіеўскім крыжам 4-й, 3-й (абодва 1914), 2-й і 1-й (абодва 1915) ступеней.

**ВАСІЛЬЕЎ** Рыгор Арцёмавіч [23.11(5. 12).1885, Жлобін — 23.12.1976], удзельнік рэв. руху ў Забайкаллі. Працаваў слесарам дэпо чыг. ст. Верхнеудзінск (Улан-Удэ). Па заданні Чыцінскага к-та РСДРП вёў рэв. прапаганду сярод салдат, разам з інш. сацыял-дэмакратамі стварыў рэв. ваенны саюз. Двойчы арыштаваны (1906 і 1907). Тры гады прасядзеў у Акатуйскай катаржнай турме, з 1911 у паліт. ссылцы ў Якуцку. Пасля Лют. рэв. 1917 на гасп. рабоце ў Гомелі. У грамадз. вайну на Зах. фронце. З 1922 камісар, упаўнаважаны Упраўлення Бел. чыгункі, кіраўнік па забеспячэнні буд-ва чыг. магістралі Турксіб. З 1935 у ін-це Транстэхпраект Мін-ва шляхоў зносін. Аўтар успамінаў «З рэвалюцыйнага мінулага» (2 выд. Улан-Удэ, 1968).

**ВАСІЛЬКА** (?—?), слонімскі князь 13 ст. Упамінаецца ў Іпацьеўскім летапісе пад 1281. У саюзе з валынскім кн. Уладзімірам Васількавічам і інш. князямі памагаў мазавецкаму кн. Кандрату (Конраду) у міжусобнай барацьбе з Баляславам Мазавецкім. Гэта адзінае сведчанне пра існаванне Слонімскага княства і яго князя.

*Літ.:* Ипатьевская летопись // ПСРЛ. М., 1962. Т. 2.

**ВАСІЛЬКА БРАЧЫСЛАВІЧ** (?—?), ізяслаўскі, магчыма, стрэжаўскі князь 12 ст. Упамінаецца ў Іпацьеўскім летапісе пад 1180, калі разам з чарнігаўскімі князямі Яраславам Усеваладавічам і Ігарам Святаславічам, а таксама з віцебскім кн. Брачыславам Васількавічам, полацкім кн. Усяславам Васількавічам і лагожскім кн. Усяславам Мікулічам, атрадам Літвы і ліваў удзельнічаў у вял. паходзе на Друцк, які знаходзіўся ў арбіце ўплыву смаленскіх князёў, што варагавалі з паўд.-рускімі князямі.

*Літ.:* Ермаловіч М. Старажытная Беларусь: Полацкі і навагародскі перыяды. Мн., 1990.

**ВАСІЛЬКА ВАЛАДАРАВІЧ** (?—?), князь лагожскі (лагойскі). У 1186 разам з смаленскім кн. Давыдам, яго сынам наўгародскім кн. Мсціславам і друцкім кн. Усяславам удзельнічаў у паходзе на Полацк. Полацкае веча вырашыла дамагацца мірнага ўрэгулявання канфлікту: палачане сустрэлі праціўнікаў з пашанай і паклонамі і далі ім шмат дароў; тыя, атрымаўшы ўзнагароду, згадзіліся на мір.

*Літ.:* Ермаловіч М. Старажытная Беларусь: Полацкі і навагародскі перыяды. Мн., 1990.

**ВАСІЛЬКА РАМАНАВІЧ** (1199—1271; паводле інш. звестак, 1203—69), князь уладзіміра-валынскі; канчаткова замацаваўся на гэтай пасадзе ў 1241. У паліт. справах выступаў разам са сваім братам *Данілам Раманавічам,* іх дзейнасць у значнай меры закранала тэр. Беларусі. У 1246 і 1247 разам з братам разбіў каля Пінска атрады Літвы, якія, у інтарэсах пінскіх князёў, нападалі на Валынскую зямлю. Асабліва актыўную дзейнасць В. Р. і яго брат разгарнулі ў 1249—54 супраць Новагародка, які захапіў суседнюю Літву, што азначала ўтварэнне ВКЛ. У 1249 войска В. Р. ўдзельнічала ў паходзе на Новагародскую зямлю праз Ваўкавыск, у 1251 зноў на Новагародак, а таксама на Гарадзен (Гродна). У 1258 В. Р. разам з татарскім ваяводам Бурундаем ваяваў Літоўскую (Верхняе Панямонне) і Нальшчанскую (ПнЗ Беларусі) землі. У 1264 войска В. Р. дапамагала кн. Войшалку ў заваяванні *Дзяволтвы* і *Нальшчанаў.*

*Літ.:* Полное собрание русских летописей. М., 1962. Т. 2. С. 818—819, 847; Ермаловіч М. Па слядах аднаго міфа. 2 выд. Мн., 1991. С. 63—66, 79—80. *М. А. Ермаловіч.*

**ВАСІЛЬКА СВЯТАСЛАВІЧ** (?—?), полацкі князь 12 ст., сын *Святаслава-Георгія Усяславіча,* брат Прадславы (Ефрасінні Полацкай), унук Усяслава Брачыславіча і, паводле звестак В. М. Тацішчава, унук Уладзіміра Манамаха. Упамінаецца ў Іпацьеўскім летапісе пад 1132, калі полацкае веча прагнала навязанага Полацку кн. Святаполка Мсціславіча і выбрала В. С. на трон. З імем В. С. звязана ўсталяванне ў Полацку прынцыпу выбарнасці князя вечам. Паводле Пскоўскіх летапісаў, у 1138 В. С. велікадушна сустрэў былога наўгародскага кн. Усевалада Мсціславіча, запрошанага княжыць у Пскове, за што атрымаў пахвалу летапісца. У 1143 выдаў сваю дачку Марыю замуж за Святаслава, сына вял. князя кіеўскага Усевалада Ольгавіча.

*Літ.:* Соловьёв С. М. История России с древнейших времен. Кн. 1, т. 1—2. М., 1959; Штыхов Г. В. Древний Полоцк IX — XIII вв. Мн., 1975; Ермаловіч М. Старажытная Беларусь: Полацкі і навагародскі перыяды. Мн., 1990. *Г. В. Штыхаў.*

**ВАСІЛЬКОЎ** Мікалай Карнілавіч [23. 4(6.5).1902, Віцебск — 4.6.1973], генерал-лейтэнант артылерыі (1954). У Чырв. Арміі з 1918. Удзельнік грамадз. вайны. Скончыў Ваенна-тэхн. акадэмію імя Дзяржынскага (1931). У 1934—36 выкладчык і нач. лабараторыі Ваен. ар-

тыл. акадэміі імя Дзяржынскага. У Айч. вайну на Сталінградскім, Варонежскім, Цэнтр., 1-м Укр., Паўд., 1-м Бел. франтах: камандзір асобнай брыгады, корпуса ППА. З 1945 на адказных пасадах у войсках ППА краіны. У 1959—62 нам. начальніка Ваен. каманднай акадэміі ППА.

**ВАСІЛЬКО́ЎКА,** група археал. помнікаў *штрыхаванай керамікі культуры* (4—5 ст. н. э.) каля в. Васількоўка Лагойскага р-на; уключае гарадзішчы і 2 курганныя могільнікі.

Гарадзішча. За 1,5 км на ПдУ ад вёскі, на правым беразе р. Цна. Пляцоўка амаль круглая, дыяметрам 57—59 м, умацавана 2 кальцавымі валамі шырынёй 7—10 м і ровам паміж імі глыбінёй 1,5 м, шырынёй 9—10 м. Даследаваў у 1964, 1966, 1967 А. Р. Мітрафанаў (пл. 402 м$^2$). Культурны пласт у цэнтры пляцоўкі 0,2—0,25 м, на краі 2—2,24 м. Выяўлены рэшткі жылых і гасп. пабудоў слупавой канструкцыі. Адно жытло 2-камернае, памер камер 4,3—4,6×2,8 м. Агнішчы ў выглядзе пласта пяску, абкладзенага валікам гліны ці камянямі, мелі памеры 1,2—1,4×1,1 м. Гаспадарчая пабудова падзелена на 4 памяшканні: 3 памерам 3,8×2,8 м, 4-е меншае, трапецападобнае, магчыма, гэта стойла жывёлы. Выяўлены таксама 2 авальныя ямы-пограбы: адна памерам 1,2×0,8 м, глыбінёй 0,4 м, сцены абкладзены дробнымі камянямі; 2-я памерам 3,2×1,95 м урэзана ў схіл пляцоўкі, магчыма, мела перакрыцце. Знойдзены рэшткі гліняных штрыхаваных (пераважна) і гладкасценных пасудзін, жал. сярпы, шылы, абломак падковападобнай фібулы, гліняныя прасліцы, абломкі сякеры, грузіка дзякоўскага тыпу і ніжняга каменя зерняцёркі.

Курганны могільнік-1. За 1 км на З ад вёскі. 21 курган вышынёй 1,1—2,5 м, дыяметрам 8—12 м. Адкрыў і даследаваў 2 насыпы ў 1962 Мітрафанаў. Пахавальны абрад — трупаспаленне. У адным кургане пахаванні размешчаны 5 ярусамі, у другім — 2 пахаванні, адно ў цэнтры насыпу. Знойдзены невялікі гаршчок конусападобнай формы.

Курганны могільнік-2. За 500 м на З ад могільніка-1. 37 насыпаў вышынёй 1,2—3,1 м, дыяметрам 8—15 м.

*Літ.*: Митрофанов А. Г. Железный век Средней Белоруссии (VII — VI вв. до н. э.— VIII в. н. э.). Мн., 1978.

*А. Р. Мітрафанаў.*

**ВАСКАБО́ЙНЯ,** майстэрня для прыгатавання воску. На Беларусі вядома з 16 ст. Невялікае збудаванне, звычайна драўлянае, з каменнай або цаглянай печчу, у якую ўмуроўвалі кацёл для плаўкі воску. Расплаўлены воск выцякаў па спец. латаку і напаўняў разнастайныя формы. В. часта згадваліся ў прывілеях гарадам на магдэбургскае права. Паводле дакументаў 16—18 ст., В. існавалі ў Полацку, Мінску, Оршы, Слуцку і іншых гарадах; былі яны і ў мястэчках, фальварках, манастырах.

**ВАСТРАЦО́Ў** Сцяпан Сяргеевіч [17 (29).12.1883, в. Казанцава Бірскага пав. Уфімскай губ., цяпер в. Вастрацова Бураеўскага р-на, Башкірыя — 3.5.1932], ваенны дзеяч, удзельнік грамадз. вайны на тэр. Беларусі. У 1905—18 чл. РСДРП. У арміі з 1906. За рэв. агітацыю сярод салдат у 1910 зняволены на 3 гады ў турму. Удзельнік 1-й сусв. вайны, прапаршчык, узнаг. 3 Георгіеўскімі крыжамі. У 1918 добраахвотна пайшоў у Чырв. Армію, камандзір роты, батальёна. У 1919—20 камандзір палка на Усх. і Зах. франтах. У 1920 уступіў у Камуніст. партыю. У ліп. 1920 полк пад яго камандаваннем удзельнічаў у вызваленні ад польскіх войск Мінска, Баранавіч, Ваўкавыска, Смалявіч, Слоніма. У 1922 камандаваў групай войск пры вызваленні Прымор'я, у 1923 — экспедыцыяй па ліквідацыі войск ген. Пепяляева. Скончыў Ваен.-акад. курсы вышэйшага каманднага саставу РСЧА (1924). У 1924—28 камандаваў дывізіямі на Беларусі. З 1929 камандзір корпуса, удзельнічаў у ліквідацыі канфлікту на Кітайска-Усх. чыгунцы. Чл. ЦВК БССР (1927—29). Адзін з першых кавалераў 4 ордэнаў Чырв. Сцяга. Яго імем названы вуліцы ў Віцебску і ў в. Зарэчка Драгічынскага р-на.

*Літ.*: Тимофеев Е. Д. Степан Вострецов. М., 1966; Кладт А. П. Он землю родную пошел защищать. М., 1966; Яго ж. Комкор С. С. Вострецов: (К 90-летию со дня рождения) // Военно-исторический журн. 1974. № 1.

*М. І. Камінскі.*

**ВАТКО́ВІЧ** Генадзь Браніслававіч (н. 30.5.1936, с. Маскоўскае Калінінскага р-на, Кыргызстан), беларускі гісторык. Канд. гіст. навук (1974). Скончыў БДУ (1958). У 1958—69 настаўнік, на камсамольскай і парт. рабоце. З 1974 на выкладчыцкай рабоце ў ВНУ Мінска, з 1978 у медінстытуце, дацэнт кафедры паліталогіі. Даследуе рэв. і нац.-вызваленчы рух у Зах. Беларусі, дзейнасць КПЗБ.

*Тв.*: КПЗБ в борьбе за интернациональное единство трудящихся (1929—1933 гг.). Мн., 1975; Пусть помнят все. Мн., 1979 (разам з В. Б. Караткевіч).

Т. Ваўжэцкі.

**ВАЎЖЭ́ЦКІ** Тамаш (паміж 1753—59, Браслаўскі пав.—5.8.1816), грамадска-паліт. і вайсковы дзеяч ВКЛ. Харужы браслаўскі. З маладых гадоў практыкуючы ў земскіх судах, набыў вядомасць як выдатны знаўца права і практык-юрыст. З 1782 падстароста ковенскі, з 1784 падкаморы ковенскі. Пасол ад Браслаўскага пав. на Чатырохгадовым сойме 1788—92, далучыўся да дэмакр. плыні, быў прыхільнікам *канстытуцыі 3 мая 1791.* Разам з Ю. Нямцэвічам выступаў на сойме за паляпшэнне становішча сялянства. У сваім маёнтку ліквідаваў паншчыну і даў сялянам волю. Адстойваў пашырэнне правоў мяшчанства. Разам з пінскім паслом Бутрымовічам распрацаваў ухваленую соймам (1789) рэформу мясцовага адм. кіравання ў ВКЛ і Кароне шляхам утварэння ваяводскіх і пав. цывільна-вайсковых парадкавых камісій (пазней выкарыстаны Т. Касцюшкам як мясц. органы па кіраўніцтве *паўстаннем 1794*). Не жадаючы ўмешвацца ў барацьбу магнацкіх партый у ВКЛ, адмовіўся ад пратэкцыі польскага караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага ў набыцці ўплывовай пасады падскарбія літоўскага. З 1790 харужы літоўскі. У снежні 1790 выбраны ў склад дэпутацыі сейма па выпрацоўцы законапраекта аб правах «дысідэнтаў» (праваслаўных і пратэстантаў) у Рэчы Паспалітай. У час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1792 быў радцам камандуючага літоўска-бел. арміяй ген.-лейт. Ю. Юдыцкага. Удзельнічаў у бітве пад Мірам (11.6.1792). Пасля адступлення войска ВКЛ пад Гродна прапаноўваў новаму камандуючаму М. Забелу накіраваць у тыл ворага дыверсійныя партыз. атрады, але не быў падтрыманы. Актыўны ўдзельнік паўстання 1794 на Беларусі і ў Літве. 24.4.1794 пасля перамогі паўстання ў Вільні ўвайшоў у склад *Найвышэйшай Літоўскай рады* — рэв. ўрада Літвы і Зах. Беларусі. Прымаў удзел у арганізацыі віленскай муніцыпальнай гвардыі. З сярэдзіны мая 1794 адзін з кіраўнікоў паўстання на Жмудзі і ў Курляндыі. У канцы мая Касцюшка прызначыў яго сябрам Найвышэйшай Нац. рады ў Варшаве — гал. органа па кіраўніцтве паўстаннем у Рэчы Паспалітай. 20 чэрв. атрымаў ад Касцюшкі патэнт на званне генерал-лейтэнанта. У канцы верасня пад націскам пераўзыходзячых сіл расійскага войска вывеў рэшткі сваіх атрадаў са Жмудзі пад Гродна. Пасля палянення Касцюшкі выбраны «вышэйшым начальнікам» — кіраўніком паўстання на ўсёй тэр. Рэчы Паспалітай. Пасля капітуляцыі Варшавы (6 ліст.) трапіў у палон, быў зняволены ў Петрапаўлаўскай крэпасці, дзе напісаў успамін пра паўстанне. У снеж. 1796 па амністыі Паўла I вызвалены, вярнуўся на радзіму. З 1808 старшыня судова-адукацыйнай камісіі Віленскага ун-та, адначасова ўзначальваў дабрачыннае т-ва ў Вільні. У канцы 1811 прымаў удзел у антынапалеонаўскім з'ездзе шляхты ў Вільні. У 1812 узначаліў Літоўскі грамадз. к-т па забеспячэнні харчаваннем расійскага войска. У час Айч. вайны 1812 знаходзіўся ў С.-Пецярбургу. Пасля вайны быў міністрам юстыцыі і пажыццёвым ваяводам

у Каралеўстве Польскім. Памёр у Варшаве, пахаваны ў г. п. Відзы Браслаўскага р-на.

*Літ.:* Szyndler B. Tomasz Wawrzecki Ostatni naczelnik powstania kościuszkowskiego. Warszawa, 1976; Пракопчык Л. Генерал касінераў // Пракопчык Л. «Дрэмле памятка дзён...» Мн., 1991.

*У. П. Емяльянчык.*

**ВАЎКАВІ́ЧЫ**, вёска ў Чавускім р-не. Цэнтр сельсавета і калгаса «Іскра». За 30 км на ПдЗ ад Чавусаў, 18 км ад чыг. ст. Рэста на лініі Магілёў — Крычаў. 96 двароў, 232 ж. (1990).

Упершыню згадваецца ў пісьмовых крыніцах (фрагменты інвентара) у 1560 як сяло ў Магілёўскай вол., дзярж. уласнасць; налічвала 4 дымы (двары). У 1580 перададзена ў пажыццёвае валоданне памешчыку. З 1589 зноў дзярж. уласнасць. Паводле 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) адышлі да Расійскай імперыі: у канцы 19 — пач. 20 ст. існавалі 2 вёскі: Вялікія В. (паводле перапісу 1897 24 двары, 180 ж.) і Малыя В. (20 двароў, 133 ж.) у Царкоўна-Асавецкай вол. Быхаўскага пав. У 1909 у Вялікіх В. 24 двары, 192 ж., у Малых В.—22 двары, 188 жыхароў. У 1910 адкрыта царк.-прыходская школа. Савецкая ўлада ўстаноўлена ў снеж. 1917. На базе дарэвалюцыйных створана працоўная школа 1-й ступені (47 вучняў у 1925). З 20.8. 1924 В.— цэнтр сельсавета. У 1931 арганізаваны калгас «Прамень», які ў 1932 аб'ядноўваў 94 гаспадаркі, у 1940 у В. 100 двароў, 380 ж. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 да 25.6.1944 акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У лютым 1944 гітлераўцы спалілі 71 двор, загубілі 13 жыхароў. У 1970—80 двароў, 264 жыхары. У 1975 да В. далучаны пасёлкі Журбіншчына, Ніва, Шлях. Размешчаны лясніцтва, ферма, машынны двор, млын. Працуюць 8-гадовая школа, дзіцячыя сад-яслі, клуб, б-ка, фельчарска-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. У В. брацкія магілы сав. воінаў, якія загінулі ў баях у 1941 і 1944; помнік землякам, якія загінулі на франтах і ў партыз. барацьбе.

*М. Б. Батвіннік.*

Герб Ваўкавыска. 16 ст.

**ВАЎКАВЫ́СК**, горад у Гродзенскай вобл., на р. Рось (прыток Нёмана). Цэнтр Ваўкавыскага р-на. За 102 км на ПдУ ад Гродна. Вузел чыгунак на Баранавічы, Масты, Бераставіцу, Свіслач і аўтамабільных дарог на Масты, Слонім, Ружаны, Бераставіцу, Гродна. 43 тыс. жыхароў (1992). Назва ад р. Ваўкавыя.

Першыя паселішчы ў межах сучаснага В. вядомы з 10 ст., што пацвярджаюць археал. матэрыялы, выяўленыя на гарадзішчы Муравельнік, дзядзінцы Шведская гара і Замчышчы (вакольны горад). Матэрыялы раскопак сведчаць пра высокі ўзровень развіцця рамяства (апрацоўкі металаў, разьбы па косці і інш.) і гандл. сувязей. Першае пісьмовае ўпамінанне В. (летапісны Волковыескъ) у Іпацьеўскім летапісе адносіцца да 1252, дзе ён названы памежнай крэпасцю. У 13 ст. цэнтр *Ваўкавыскага княства.* У 1256 мясцовы кн. Глеб з навагародскім кн. Раманам і свіслацкім кн. Ізяславам удзельнічаў у паходзе наятвягаў. У 13 ст. горад быў аб'ектам барацьбы паміж галіцка-валынскімі і літ. князямі. З пач. 14 ст. В. у складзе ВКЛ. У 2-й пал. 14 ст. В.— уласнасць вял. князя ВКЛ Ягайлы, пазней — Вітаўта. У 1410 горад захапілі і спалілі тэўтонскія рыцары. Ваўкавыская харугва ўдзельнічала ў Грунвальдскай бітве 1410. У 1430 Вітаўт заснаваў у В. касцёл Св. Мікалая. З 15 ст. В.— цэнтр староства, з 16 ст. цэнтр Ваўкавыскага павета. У 1503 горад атрымаў магдэбургскае права. У 1513 было 9 вуліц. З 1536 вядома Прачысценская царква, у 1598 засн. кляштар езуітаў. Горад неаднаразова быў спалены ў час войнаў сярэдзіны 17 — пач. 18 ст. У 1654 паблізу В. адбылася бітва аб'яднанага войска ВКЛ і Польшчы са шведамі, горад заняты войскамі Карла X. У час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* горад захоплены рус. войскамі (1655), моцна разбураны (1662). У 2-й пал. 18 ст. ў В. дзейнічала школа ордэна піяраў. У 1762 у горадзе 112 двароў, у 1792—2172 жыхары. Сярод старостаў ваўкавыскіх Іван Давойнавіч, Іван Іллініч, Войцех Кучукавіч (2-я пал. 15 —

пач. 16 ст.), Ян Забярэзінскі, Януш Гальшанскі, Юры Глебавіч, Мацей Клочка, Васіль і Юры Тышкевічы (усе 16 ст.), Мікалай, Ян, Станіслаў Трызны, Януш Кішка, Аляксандр Палубенскі (усе 17 ст.), Ежы Сапега, Міхаіл Масальскі, Адам, Міхал, Аляксандр Бжастоўскія (усе 18 ст.). Адміністрацыйным і гасп. цэнтрам горада быў замак на р. Ваўкавыя паблізу Ізабелінскага гасцінца. Паводле інвентара 1736, на тэр. замка размяшчаліся дом старосты, гасп. пабудовы, млын, карчма. Пазней пабудаваны канцылярыя і дом для манашак-марыявітак. У час *паўстання 1794* у Польшчы, на Беларусі і ў Літве вясной 1794 В. заняты паўстанцамі. З 1795 В. у Расійскай імперыі, цэнтр павета. На пач. Айч. вайны 1812 у горадзе размяшчалася штабкватэра камандуючага 2-й Зах. рускай арміяй ген. П. І. Баграціёна. Заняўшы горад (чэрв. 1812), напалеонаўскія войскі абрабавалі насельніцтва. У час іх адступлення ў лістападзе горад моцна разбураны, ацалела 48 дамоў. У 1815 у В. было 156 дамоў, 818 жыхароў, у 1849—461 дом, 2267 жыхароў, 4 прамысл. прадпрыемствы (58 рабочых), прыходскае вучылішча, бальніца. У 1860 у горадзе 492 дамы, 3472 жыхары, 2 школы, касцёл, царква, 7 малітоўных дамоў, сінагога, цагельня, гарбарня, 2 млыны, шпіталь, 58 крам. У 1885 праз В. прайшла чыгунка Баранавічы — Беласток, па якой штогод перавозілі да 26 млн. пудоў грузаў. Гэта стымулявала развіццё прамысловасці. У 1891 у горадзе працавала 19 фабрык і прамысл. прадпрыемстваў. На 1897—10 323 жыхары. У час рэвалюцыі 1905—07 у В. і яго ваколіцах адбыліся выступленні рабочых, забастоўкі сялян, *Ваўкавыскія хваляванні навабранцаў і салдат 1905*. У 1914 у В. 16 754 жыхары. У час 1-й сусв. вайны восенню 1915 горад акупіраваны германскімі войскамі. У канцы снеж. 1918 у В. адбыўся 1-ы павятовы з'езд сялянскіх дэпутатаў, які выбраў выканаўчы камітэт. 8.2.1919 горад занялі польскія войскі, 24.7.1920 вызвалены Чырв. Арміяй, створаны павятовы рэўком. 27.9.1920 В. зноў заняты польскімі войскамі і знаходзіўся ў складзе Польшчы да 1939, як цэнтр павета ўваходзіў у Беластоцкае ваяв. У В. дзейнічалі ліцейны з-д, 2 цагельні, 2 лесапільні і іншыя дробныя прадпрыемствы: паблізу горада працаваў цэментны з-д, які лічыўся адным з буйнейшых прадпрыемстваў у Зах. Беларусі. У В. дзейнічалі падп. арг-цыі КПЗБ і КСМЗБ. У 1935 адбылася забастоўка рабочых і служачых Ваўкавыскага чыг. вузла. У 1939—16,7 тыс. жыхароў. З 1939 у складзе БССР, з 15.1.1940 цэнтр раёна. У першыя дні Вял. Айч. вайны пры абароне В. вызначыўся зенітна-артыл. дывізіён капітана Л. П. Малыгіна, які збіў 19 бамбардзіроўшчыкаў праціўніка. У баях за горад удзельнічаў ген.-лейт. Дз. М. *Карбышаў*. 28.6.1941 горад акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія толькі з вер. па снеж. 1941 знішчылі 300 чал. цывільнага насельніцтва. Тут быў размешчаны канцэнтрацыйны лагер, у якім загінула больш за

Фрагменты Ваўкавыскага евангелля.

20 тыс. чал. З лютага 1942 у В. дзейнічала *Ваўкавыская раённая антыфашысцкая арганізацыя*. 14.7.1944 горад вызвалены часцямі 2-га Бел. фронту ў выніку *Беластоцкай аперацыі 1944*, 11 часцям нададзена ганаровае найменне «Ваўкавыскія». Да 1950 адноўлена дзейнасць усіх прамысл. прадпрыемстваў, якія дзейнічалі да вайны, павялічылася іх магутнасць, рэканструяваны маслазавод, станцыя Ваўкавыск-Цэнтральная, гар. дыстанцыя пуці, пачала працаваць электрастанцыя. У 1969 у В. 21,5 тыс. жыхароў. У горадзе працуюць малочнакансервавы камбінат дзіцячых прадуктаў, мясакамбінат, кансервавы з-д, хлебазавод, з-ды ліцейнага абсталявання і металавырабаў, дахавых будаўнічых аддзелачных машын, вытворчыя аб'яднанні будаўнічых матэрыялаў і птушкагадоўлі. Ёсць саўгас-тэхнікум і пед. вучылішча, 6 сярэдніх, музычная, 2 дзіцяча-юнацкія спартыўныя школы, 4 б-кі, *Ваўкавыскі дзяржаўны ваенна-гістарычны музей*, 4 бальнічныя ўстановы, дзіцячы санаторый «Ваўкавыск», 3 аптэкі. Выдаецца газ. «Наш час». Помнікі П. І. Баграціёну, Герою Сав. Саюза В. Р. *Жолудзеву*; Вызвалення; брацкія магілы сав. воінаў, партызан (сярод пахаваных Героі Сав. Саюза В. В. Еўдакімаў і Жолудзеў) і ваеннапалонных, супрацоўнікаў міліцыі; магіла ахвяр фашызму (за 1 км ад горада). Захаваліся помнікі архітэктуры: Вацлаўскі касцёл і Мікалаеўская царква 19 ст., сядзібны дом (Дом Баграціёна).

*Літ.:* Зверуго Я. Г. Древний Волковыск X — XIV вв. Мн., 1975; Полное собрание русских летописей. Т. 2. М., 1962; Любавский М. К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского Статута. М., 1915. *В. У. Шаблюк.*

**ВАЎКАВЫСКАЕ ЕВАНГЕЛЛЕ,** беларускі рукапісны помнік 16 ст. Месца стварэння невядома. Зробленая на кнізе ў 1751 прэсвітэрам «церкви Волковицкой» айцом Іаанам Савічам прыпіска дазволіла В. Шматаву звязаць Евангелле з Ваўкавыскам, аднак, магчыма, кніга знаходзілася ў в. Ваўкавічы Навагрудскага пав. (у прыпісцы ўпамінаецца пан Казімір Корсак, навагрудскі гродскі суддзя). У 19 ст. А. Рачынскі вывез Евангелле з Віцебскага Маркавага манастыра ў Віленскую публічную б-ку. В. е. з'яўляецца рэдкім узорам рукапіснай бел. кнігі рэнесансавага стылю: шматколерныя раслінныя арнаменты ініцыялаў і заставак выходзяць на правае і левае палі рукапісу. Рукапіс пашкоджаны: няма пачатку Евангелляў ад Марка, Матфея, няправільна збрашураваны Саборнік 12 месяцаў і казанні евангелістаў на кожны дзень (у канцы кнігі). Зберагаецца ў б-цы АН Літвы (Вільня).

*Літ.:* Добрянский Ф. Описание рукописей Виленской Публичной библиотеки, церковнославянских и русских. 1882. С. 36—38; Нікалаеў М. Палата кнігапісная. Мн., 1993. *М. В. Нікалаеў.*

**ВАЎКАВЫСКАЕ КНЯСТВА,** удзельнае княства ў 13 ст. ў басейне р. Рось (левы прыток Нёмана). Цэнтр — г. *Ваўкавыск*. Паводле пісьмовых крыніц, вядомы адзіны кн. *Глеб*. Іпацьеўскі летапіс пад 1256 паведамляе, што ў паходах галіцка-валынскіх і мазавецкіх князёў на *яцвягаў* прымалі ўдзел князі ваўкавыскі Глеб, навагародскі Раман і свіслацкі Ізяслаў, таму што Глеб разам з інш. панёманскімі князямі быў у васальнай залежнасці (служылым князем) ад галіцка-валынскага князя. У час паходу татарскага ваяводы Бурундая на Літву ў 1258 галіцкі кн. Даніла Раманавіч захапіў Ваўкавыск, узяў у палон кн. Глеба. У 1260—80-я гады княства падуладнае літ. князям Войшалку, Шварну, Трайдзеню. Землі княства зведалі шматлікія паходы князёў Галіччыны і Валыні. У 1289 князі

ВКЛ Будзікід і Будзівід перадалі В. к валынскаму кн. Мсціславу Данілавічу, «абы с ними мир держал». Верагодна, В к існавала працяглы час і пасля ўтварэння ВКЛ у канцы 13 — пач. 14 ст.

*Літ* Полное собрание русских летописей Т 2 М, 1962, Пашуто В Т Очерки по истории Галицко-Волынской Руси М, 1950, Его ж Образование Литовского государства М, 1959, Зверуго Я Г Древний Волковыск X — XIV вв Мн, 1975

*Я Г Звяруга*

**ВАЎКАВЫСКАЯ РАЁННАЯ АНТЫФАШЫСЦКАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ** ў Вялікую Айчынную вайну. Дзейнічала з лют. 1942 да лют 1944 на тэр. Ваўкавыскага, часткова Поразаўскага і Свіслацкага р-наў, уваходзіла ў *Беластоцкую абласную антыфашысцкую арганізацыю* Працавала пад непасрэдным кіраўніцтвам Беластоцкага абл. антыфашысцкага к-та, работу накіроўвалі *Беластоцкі падпольны абком КП(б)Б* і Ваўкавыскі падп. РК КП(б)Б. Налічвала больш за 90 чал. сельскіх актывістаў, былых членаў КПЗБ, камсамольцаў, ваеннаслужачых. Складалася з пярвічных падп. ячэек (3—5 чал), якія дзейнічалі ў Ваўкавыску (на чыг. станцыі, у дэпо, майстэрнях і інш.), у вёсках Карпаўцы, Каты, Краснае Сяло, Пекары, Петакі, Севашкі, Трунцы Ваўкавыскага, Грыцкі, Задворанцы, Раманаўцы Свіслацкага, Грынявічы, Міхайлы Поразаўскага р-наў Арганізацыю ўзначальваў створаны ў лют. 1942 раенны антыфаш. к-т, у які ўвайшлі М. М Уладыка (старшыня да вер. 1943), М. І. Паўлоўскі (нам старшыні, старшыня ў вер — ліст 1943), Ф. А. Курза (старшыня з ліст. 1943), А. А Васіцкі, В. І. Сарока, В. І Крачко, С. Ф. Пілат. Члены к-та былі кіраўнікамі ячэек. Падпольшчыкі вялі паліт. работу сярод насельніцтва, распаўсюджвалі лістоўкі, зводкі Саўінфармбюро, зрывалі планы акупантаў па рабаванні насельніцтва і вывазе моладзі ў Германію, ратавалі сав ваеннапалонных, перапраўлялі іх да партызан, учынялі дыверсіі, збіралі і перадавалі партызанам зброю, боепрыпасы, медыкаменты, накіроўвалі папаўненне У лют. 1944 гітлераўцы арыштавалі 19 патрыетаў Падпольшчыкі, якія засталіся на волі, працягвалі барацьбу, некаторыя пайшлі да партызан.

У Ваўкавыску на доме, дзе была явачная кватэра падпольшчыкаў, і на будынку вагоннага дэпо, дзе ў 1939—41 працаваў М. М Уладыка, устаноўлены мемарыяльныя дошкі, у в. Карпаўцы помнік падпольшчыкам.

*Л В Аржаева, П П Ліпіла*

**ВАЎКАВЫСКІ БОЙ 1812.** Адбыўся 3—4(15—16).11.1812 каля г Ваўкавыска паміж рускімі (вайсковая група Ф. В. Остэн-Сакена, 27—30 тыс. чал.) і напалеонаўскімі (узмоцнены 7-ы корпус Ж. Л. Э. Рэнье; 23—25 тыс. чал.) войскамі ў *Айчынную вайну 1812* Гэтыя войскі з абодвух бакоў былі *пакінуты* на Падляшшы для аховы тылу гал. сіл сваіх груповак — рускай арміі П. В. Чычагова і аўстрыйскага (12-га) корпуса К. Ф. Шварцэнберга. Адначасова з пачаткам руху арміі Чычагова ад Брэста на Слонім Шварцэнберг 17—18 (29—30) кастр. пераправіў 7-ы і 12-ы карпусы цераз Зах. Буг каля Драгічына і павёў наступленне ў агульным напрамку да Ваўкавыска і Слоніма. Пры гэтым 7-ы корпус быў высунуты ў напрамку г. Кляшчэля для прыкрыцця ад войск Остэн-Сакена ў раёне Брэста. Остэн-Сакен неадкладна таксама перайшоў у наступленне, і пасля авангардных баёў 22 кастр. (3 ліст.) каля Высока-Літоўска (цяпер г. Высокае), 27 кастр. (8 ліст.) каля Рудні, 1(13) ліст. каля Гарнастаевіч Рэнье адвёў 7-ы корпус і заняў пазіцыі на вышыні каля Ваўкавыска. Камандаванне і штаб 7-га корпуса былі размешчаны ў горадзе без належных сіл абароны. У ноч на 3(15) ліст рускія раптоўна атакавалі і занялі Ваўкавыск, захапілі канцылярыю і экіпажы штаба Рэнье; сам ён ледзь пазбегнуў палону Усю ноч і наступны дзень працягваліся ружэйная і артыл. перастрэлка; атакі з абодвух бакоў былі беспаспяховыя. Шварцэнберг, даведаўшыся пра бой, спыніў свой корпус каля Слоніма і накіраваў у тыл Остэн-Сакену кавалерыйскі атрад ген. Ф Фрэліха (каля 3 тыс чал.). Пад поўдзень 4(16) ліст., калі Остэн-Сакен спрабаваў ажыццявіць ахоп левага фланга Рэнье, Фрэліх уварваўся ў Ізабелін, дзе знаходзіліся гал кватэра рус. войск, абозы і лазарэты з параненымі Остэн-Сакен неадкладна пачаў адвод сваіх часцей ад Ваўкавыска на Гнезна і Свіслач. Спроба Рэнье затрымаць рускіх на рубяжы р. Рось не мела поспеху. Даныя пра страты абодвух бакоў вельмі супярэчлівыя; найбольш верагодна, што загінула каля 2—3 тыс чал з кожнага боку, прычым значную частку страт рускіх склалі палонныя Ваўкавыск моцна пацярпеў ад пажару і артыл. агню. Вынікі бою ацэньваюцца неадназначна Рускія хутка страцілі ініцыятыву, былі вымушаны адступіць і зноў пакінуць Брэст і ўсе Падляшша Але фактычна Остэн-Сакен прынёс свае войска ў ахвяру аператыўнай ідэі рус. камандавання — забеспячэнню свабоднага руху гал сіл у глыб Беларусі, на Мінск і Барысаў Гэта мэта была дасягнута· Шварцэнберг адмовіўся ад праследавання Чычагова і застаўся дзейнічаць на паўд. стратэгічным флангу. У выніку армія Чычагова атрымала магчымасць актыўна ўдзельнічаць у *Бярэзінскай аперацыі 1812*.

*Літ* Нечто о сражении при Волковиске // Сын Отечества 1824 № 10, Авербух З Город Волковыск в войне 1812 года // Еврейская старина 1913 Вып 4

*В В Антонаў*

**ВАЎКАВЫСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ ВАЕННА-ГІСТАРЫЧНЫ МУЗЕЙ** імя П. І. Баграціёна. Заснаваны ў 1935 на грамадскіх пачатках як краязнаўчы музей. З 1940 дзяржаўны, з 1953 ваенна-гіст. музей імя Баграціёна Заснавальнік краязнавец і археолаг Г. І Пех У Вял Айч. вайну музей разрабаваны ням.-фаш. акупантамі, большасць экспанатаў знішчана. З 1949 адноўленая экспазіцыя размяшчаецца ў б. сядзібным доме, пабудаваным у 1805 на ўскраіне Ваўка-

выска (цяпер вул. Баграцена) У 1812 тут знаходзілася штаб-кватэра 2-й Зах арміі пад камандаваннем П І *Баграціена* У 1950 перад будынкам музея ўстаноўлены бюст Баграціена (скульпт. З Азгур). Мае 6 экспазіцыйных залаў (пл экспазіцыі 198 м$^2$), 35,5 тыс экспанатаў асн фонду (1992) У калекцыях музея археал знаходкі, зброя і ваен. начынне, рукапісныя і друкаваныя дакументы, фотаздымкі, нумізматыка, творы жывапісу і графікі, скульптура, старадаўнія кнігі Экспануюцца матэрыялы раскопак паселішчаў у Ваўкавыску (Шведская гара, Замчышча і Муравельнік), стараж. ўзбраенне воіна (наканечнікі стрэл лука і арбалета, кап'я, баявыя сякеры, кальчуга і меч стараж. рускага воіна, даспехі ням. рыцара і крыжацкі меч часоў Грунвальдскай бітвы 1410, у якой прымала ўдзел ваўкавыская харугва). Халодная зброя 16 — пач. 19 ст. прадстаўлена алебардамі, палашамі, пратазанамі, шаблямі, агнястрэльная — пісталетамі, стрэльбамі, гарматай, адлітай у 1778 У тэматычнай зале «Айчынная вайна 1812 г» мундзіры рус салдат і афіцэраў гусарскіх, уланскіх палкоў, экспанаты, якія расказваюць пра баявыя дзеянні 2-й Зах. арміі на тэр Беларусі ў час наступлення і адступлення войск Напалеона, пра *Ваўкавыскі бой 1812* Матэрыялы экспазіцыі «Вялікая Айчынная вайна» прысвечаны абароне Ваўкавыска ў 1941, дзейнасці Ваўкавыскага патрыятычнага падполля, падп піянерскай арг-цыі «Піянерскае сховішча», Карпаўскай і Нізянскай падпольным камсамольскім арг-цыям, вызваленню Ваўкавыска ў 1944 ад ням.-фаш. акупантаў, аперацыі «Баграціён». Зберагаюцца экспанаты пра жыццё і дзейнасць Баграціена, дзеячаў КПЗБ С. В. *Прытыцкага*, В. З. *Харужую*, С. С. *Панкову*, падп друкаваныя выданні перыяду Вял. Айч. вайны, творы жывапісу А. Казлоўскага, скульптуры Азгура, С. Селіханава і інш Музеем выдадзены «Памятка наведвальніку музея» (1960), «Даведнік па залах музея» (1978)

*А П Чарныш*

**ВАЎКАВЫ́СКІ ПАВЕ́Т.** Існаваў на Беларусі ў 16—20 ст. Утвораны ў 1507 у складзе *Навагрудскага ваяводства* ВКЛ. Межы павета ўдакладняліся ў час адм.-тэр. рэформы 1565—66 і пазней. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе *Гродзенскага ваяводства* ВКЛ, пасля 3-га падзелу (1795) — у складзе Расійскай імперыі з 1795 у Слонімскай, з 1797 у Літоўскай, з 1801 у Гродзенскай губ. Павятовы цэнтр — г. *Ваўкавыск* Пл. павета 3413,2 кв. вярсты, насельніцтва 149 678 чал (1897). У склад В. п ўваходзіла 25 валасцей Баярская, Біскупцоўская, Вільчукоўская, Вярэйкаўская, Гарнастаеўская, Дабравольская, Зэльвенская, Зэльзінская, Ізабелінская, Крамяніцкая, Лыскоўская, Міжэрыцкая, Мсцібаўская, Падароская, Поразаўская, Пянюгаўская, Пяскоўская, Роская, Самаравіцкая, Свіслацкая, Талачманоўская, Тарнопальская, Шылавіцкая, Шымкоўская і Юшкаўская. Пазней Вільчукоўская і Гарнастаеўская валасці перайменаваны ў Свянтыцкую і Ялуўскую У павеце 13 мястэчак Зэльва, Ізабеліна, Крамяніца, Лапеніца, Лыскаў (Лыскі), Малая Лапеніца, Мсцібава, Но-

вы Двор, Поразава, Пяскі, Рось, Свіслач і Ялуўка; 6 сёл, 437 вёсак і 348 дробных населеных пунктаў (1889). Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 павет у складзе Польшчы, у *Беластоцкім ваяводстве.* Былыя воласці ўзбуйнены і пераўтвораны ў гміны. У 1927 пл. 3892 км², нас. 115 261 чал., было 16 гмін: Біскупская (Біскупцоўская), Зэльвенская, Ізабелінская, Лыскоўская, Міжэрыцкая, Мсціслаўская, Падароская, Поразаўская, Роская, Свіслацкая, Тарнопальская, Церашкоўская, Шылавіцкая, Ялуўская. На пачатку 2-й сусв. вайны В. п., як і ўся Зах. Беларусь, па дамоўленасці ўрадаў СССР і Германіі ў вер. 1939 заняты войскамі Чырв. Арміі і ў ліст. 1939 уключаны ў склад БССР, з 4.12.1939 у *Беластоцкай вобласці,* 15.1.1940 скасаваны. На яго тэр. ўтвораны Ваўкавыскі раён.

*М. І. Камінскі.*

Ваўкавыскі дзяржаўны ваенна-гістарычны музей імя П. І. Баграціёна.

**ВАЎКАВЫ́СКІ РАЁН.** На ПдЗ Гродзенскай вобл. Пл. 1,2 тыс. км². 190 населеных пунктаў, 27,5 тыс. чал. (1992). Утвораны ў 1940. Цэнтр раёна — г. *Ваўкавыск.* 9 сельсаветаў: Ваўкавыскі, Воўпаўскі, Вярэйкаўскі, Гнезнаўскі, Ізабелінскі, Падарoскі, Рэплеўскі, Субацкі, Шылавіцкі; 2 гар. пасёлкі — *Краснасельскі* і *Рось.*

ВАЎКАВЫСКІ РАЁН

Тэр. раёна размешчана на Ваўкавыскім узвышшы. Рэкі: Рось (басейн Нёмана) з прытокамі Ваўпянка і Нятупа, Ваўкавец, Харужаўка, Коласаўшчына, Верацейка (прыток Свіслачы), Зальвянка. 23 % тэрыторыі пад лесам. Па тэр. раёна праходзіць чыгунка Баранавічы — Слонім — Ваўкавыск — Масты, шашэйныя дарогі: Баранавічы — Слонім — Ваўкавыск — Гродна, Ваўкавыск — Ружаны і інш.

Раён утвораны 15.1.1940 у складзе Беластоцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 раён акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі ў раёне больш за 29 тыс. чал. З першых дзён акупацыі пачала дзейнічаць партыз. група лейтэнанта Ф. І. Баранава (пазней партыз. атрад). На тэр. раёна дзейнічалі таксама баявая група Н. І. Радзяка (пазней партыз. атрад імя Катоўскага), дэсантная група «Стойкія», партыз. брыгады імя Чапаева, імя Панамарэнкі, асобныя партыз. атрады імя Калініна Беластоцкай вобл. і імя Калініна Баранавіцкай вобл., некалькі дыверсійных груп. Праз тэр. раёна рэйдам праходзіла *Беластоцкае партызанскае злучэнне* ген.-маёра П. П. Капусты. З лютага 1942 дзейнічала *Ваўкавыская раённая антыфашысцкая арганізацыя,* падп. арг-цыі былі створаны ў вёсках Кізяны, Карпаўцы і інш. З ліст. 1943 дзейнічалі падп. райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ. Тэр. раёна вызвалена ў ліп. 1944 Чырв. Арміяй у выніку *Беластоцкай аперацыі 1944.* З 20.9. 1944 раён у складзе Гродзенскай вобл.

Найбольш значныя помнікі археалогіі: *Краснасельскі археалагічны комплекс,* Воўпа, Гляднёвічы, Данілаўцы, Калантаі, Карпаўцы, Лазы, Мінеўшчына, Мсцібава, Падрось, Тупічаны.

У гаспадарцы раёна вядучае месца займае с.-г. вытворчасць. Тут 10 калгасаў і 10 саўгасаў (1992), якія спецыялізуюцца на вытворчасці мяса, малака і агародніны. Найб. буйныя прамысл. прадпрыемствы — вытворчае аб'яднанне «Ваўкавыскцэментнашыфер» і камбікормавы з-д. Працуюць саўгас-тэхнікум, 25 сярэдніх і няпоўных сярэдніх школ, 24 дашкольныя ўстановы, 49 клубных устаноў. Выдаецца газ. «Наш час».

У раёне брацкія магілы сав. воінаў і партызан, якія загінулі ў Вял. Айч. вайне, у вёсках Біскупцы, Ізабелін, Падароск (сярод пахаваных старшыня Ваўкавыскага антыфаш. камітэта М. М. Уладыка, закатаваны гітлераўцамі ў 1943), Раднікі, Чырвоны Груд, Шылавічы; магілы ахвяр фашызму ў вёсках Калантаі, Канюхі, Кутнікі. Помнікі падпольшчыкам у в. Карпаўцы, на месцы спаленай 7.7.1943 ням.-фаш. захопнікамі в. Шавулічы. Помнікі архітэктуры: касцёл Яна 18 ст. (в. Воўпа), Міхайлаўскі касцёл (1527) і сядзіба 2-й пал. 19 ст. (в. Гнезна), Петрапаўлаўскі касцёл (1778) і Міхайлаўская царква 18 ст. (в. Ізабелін), царква Аляксандра Неўскага 19 ст. (в. Кузьмічы), сядзіба 19 ст. (в. Падароск), сядзібы з паркамі 19 ст. (вёскі Краскі і Цеалін). У в. Ярылаўка захаваўся дом,

у якім жыў графік і жывапісец А. І. Каменскі (1860—1933).

**ВАЎКАВЫ́СКІЯ ХВАЛЯВА́ННІ НАВАБРА́НЦАЎ І САЛДА́Т 1905.** Адбыліся ў студз. 1905 у г. *Ваўкавыск.* Прычынай паслужылі незадаволенасць злоўжываннямі пры мабілізацыі і пратэст супраць магчымай адпраўкі на руска-японскую вайну. Непасрэднай падставай для хваляванняў былі дрэнныя ўмовы ўтрымання 2,5 тыс. прызыўнікоў у гар. гарнізоне: няякаснае і мізэрнае харчаванне, адсутнасць спальных прыналежнасцей, недастатковае забеспячэнне абмундзіраваннем. Пад уплывам рэв. агітацыі прадстаўнікоў Беластоцкай арг-цыі Польскай сацыяліст. партыі (ППС) сярод прызыўной моладзі ўзмацніўся бунтарскі настрой. Абураныя дзеяннямі інтэнданцкага начальства і махінацыямі гандляроў — пастаўшчыкоў прадуктаў і абмундзіравання, 300 навабранцаў і сялян, што прыехалі на кірмаш, 11 студзеня разгрмілі 2 харчовыя і 3 вінныя крамы, разагналі паліцыю. Супраць паўстанцаў былі выкарыстаны вайск. сілы. Ва ўзбр. сутычцы 3 паўстанцы і гарадавы атрымалі раненні. У той жа дзень выступленне было задушана, найб. актыўныя яго ўдзельнікі арыштаваны.

Адкрытае спачуванне прызыўнікам выказалі салдаты 3-й роты 118-га запаснога батальёна, якія дыслацыраваўся ў Ваўкавыску. 13 студз. яны адмовіліся пайсці на вучэнне і, пагражаючы новым выступленнем, запатрабавалі вызваліць арыштаваных. Улады дадаткова ўвялі ў горад 4 роты 64-га Казанскага пях. палка. 50 салдат былі арыштаваны, пасля чаго хваляванні спыніліся. *З. В. Шыбека.*

**ВАЎКАЛА́К** (ад старaслав. влъкъ — воўк, длакъ — поўсць), персанаж слав. міфалогіі, *пярэварацень*, чалавек, які мог набыць аблічча воўка. Паводле паданняў, В. дзялілі на 2 групы. Да адной адносілі фантастычных істот, у якіх быццам бы ператваралі людзей чараўнікі; гэтыя людзям не шкодзілі. Да другой групы адносілі В., у якіх нібыта ператвараліся самі чараўнікі, каб шкодзіць людзям. Паўднёваславянскія вераванні звязваюць В. з вампірамі (мерцвякамі, якія нібыта смокчуць кроў людзей). У «Слове пра паход Ігаравы» гаворыцца пра полацкага кн. Усяслава Чарадзея, што ён «в ночь влъком рыскаше». Генетычна вобраз В. звязаны з татэмізмам, татэмічнымі абрадамі пераапранання людзей у скуры татэмных жывёл, якім пакланяліся. Пра гэта сведчыць таксама ўяўленне, што людзі ператвараліся ў В. толькі на пэўны час, а потым зноў набывалі чалавечае аблічча. У паданнях беларусаў чараўнікі ператваралі ў В. вясельныя групы, якія ў далёкім мінулым азначалі радавыя групы, а род быў сац. асновай татэмізму. На больш позніх стадыях развіцця грамадства гэты татэмічны абрад пераапранання пераасэнсаваны як магічнае дзеянне чараўніка.

*Літ.:* Богданович А. Е. Пережитки древнего миросозерцания у белорусов: Этногр. очерк. Гродно, 1895. *М. Ф. Пілiпенка.*

**ВАЎКАЛА́ТА,** вёска ў Докшыцкім р-не. За 30 км на З ад Докшыц, 20 км ад чыг. ст. Параф'янава. Цэнтр сельсавета і калгаса «Памяць Ільіча». 910 двароў, 2011 ж. (1991). Упершыню ўпамінаецца ў 1524 пад назвай Волколата як частка маёмасці Альжбеты Багданаўны, удавы М. Радзівіла; верагодна, уваходзіла ў лік тых маёнткаў страж. Мядзельскай вол., якія Альжбета атрымала ў спадчыну ад бацькі, трокскага ваяводы Б. А. Саковіча. Пасля смерці Альжбеты (каля 1540) В. перайшла да яе дачкі Алены Радзівілаўны, жонкі кн. Ю. С. Алелькавіча-Слуцкага, а ў 1546 — да дзяцей апошняй, кн. Ю. Ю. Слуцкага і яго сястры Соф'і. У гэты час адбываўся зацяжны памежны канфлікт уладальнікаў В. з віленскім архідыяканам, якому належаў суседні маёнтак Параф'янава. У 1557 маёнткі былі падзелены паміж Слуцкім і Соф'яй, якая выйшла замуж за Ю. А. Хадкевіча. Ва ўладанні князёў Слуцкіх В. знаходзілася яшчэ ў 1582. У 17 ст.— мястэчка ў Ашмянскім пав., уласнасць Долмат-Ісайкоўскіх. У 1624 Ян Долмат-Ісайкоўскі заснаваў у В. касцёл. Воласць маёнтка В. ахоплівала ўсю зах. частку сучаснага Докшыцкага р-на да р. Сэрвач. У 1794— уласнасць К. Зяньковіча, потым Бжастоўскіх, Аскеркаў, Шышкаў. Пасля далучэння ў 1793 да Расійскай імперыі В. ўвайшла ў Докшыцкі, з 1802— у Вілейскі пав. З 1861— цэнтр воласці. У 1886 у мястэчку В. 36 двароў, 246 ж., касцёл, нар. вучылішча, карчма, 2 ветракі. У 1921—39 у складзе Польшчы. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 12.10.1940 цэнтр сельсавета ў Дунілавіцкім, з 20.1.1960 у Глыбоцкім, з 25.12.1962 у Пастаўскім, з 6.1.1965 у Докшыцкім р-нах. 120 двароў, 374 ж. (1970). Сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, аддзяленне сувязі, бальніца, 3 магазіны (1991). Помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. Захаваўся помнік архітэктуры — касцёл Іаана Хрысціцеля (канец 19 ст.).

*В. Л. Насевіч.*

С. А. Ваўпшасаў.

**ВАЎПША́САЎ** Станіслаў Аляксеевіч [партыз. мянушка Градаў; 15(27).7.1899, в. Груздждай Шаўляйскага р-на, Літва — 19.11.1976], адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партыз. руху на Беларусі ў Айч. вайну. Герой Сав. Саюза (1944). У Чырв. Арміі з 1918, удзельнік грамадз. вайны. У 1920—25 на падп. рабоце ў Зах. Беларусі. З 1925 на гасп. рабоце ў Маскве, з 1930 у органах дзяржбяспекі. Удзельнік нац.-рэв. вайны ў Іспаніі (1936—39), сав.-фінляндскай вайны 1939—40. З вер. 1941 камандзір батальёна асобнай мотастралк. брыгады спец. прызначэння, якая абараняла Маскву. З сак. 1942 у тыле ворага: камандзір партыз. спец. атрада НКДБ СССР «Мясцовыя», які дзейнічаў у Мінскай вобл., з вер. 1943 чл. Мінскага падп. гаркома КП(б)Б. Удзельнік разгрому імперыяліст. Японіі ў 1945 — узначальваў у Маньчжурыі аператыўную групу. Да 1958 у органах дзярж. бяспекі, палкоўнік. Яго імем названы вуліца ў Мінску, пагранічная застава.

*Тв.:* На разгневанной земле. 2 изд. Мн., 1965; Партизанская хроника. 2 изд. Мн., 1971; На тревожных перекрестках: Зап. чекиста. 2 изд. М., 1974.

**ВАЎЧА́,** Волча, вёска ў Бягомльскім пасялковым Савеце Докшыцкага р-на. За 31 км на ПдУ ад Докшыц. 105 двароў, 225 ж. (1992).

Упершыню згадваецца ў 1395, калі вял. князь ВКЛ Вітаўт вылучыў вёску В. са складу Харэцкай вол. і падараваў капітулу кафедральнага касцёла св. Станіслава ў Вільні (віленскаму капітулу). З таго часу В. стала цэнтрам вял. капітульнага маёнтка, землі якога знаходзіліся на Пн Мінскага пав., паміж рэкамі Бярэзіна і Поня. У 16—17 ст. маёнтак неаднаразова ўпамінаецца сярод уладанняў віленскага каталіцкага біскупства. У 1596 паміж жыхарамі сяла В. і суседняга маёнтка Забор'е адбыўся копны суд з-за рабавання заборцамі ваўчанскіх борцей у сумежным Кастрынскім лесе. Паводле завяшчання пана В. Тышкевіча (1570), адна з частак сяла В. належала да тых зямель Харэцкай вол., якія Тышкевіч атрымаў у спадчыну па лініі кн. Чартарыйскіх. У 17 ст. гэта частка В. перайшла да паноў Пацаў, пазней далучана да суседняга маёнтка *Вілейка*, разам з якім у 1793 далучана да Расійскай імперыі. Паводле інвентара Вілейкі за 1797, сяло В. з царквой, карчмой, млынам і 27 дварамі цалкам адносілася да Вілейкі (цэнтр капітульнага маёнтка напярэдадні перамясціўся ў суседняе с. Бягомль). З 1861 В. ў Бягомльскай вол. Барысаўскага пав. У 1897 мела 83 двары, 311 жыхароў. З 17.7.1924 В. ў Бягомльскім, з 20.1.1960 у Докшыцкім р-нах. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія часткова знішчылі вёску. Пасля вайны адноўлена. Уваходзіць у саўгас «Бягомльскі». За 500 м на З ад В. курганны могільнік 11—13 ст.

*Літ.:* Акты, издаваемые Виленскою археографическою комиссиею. Т. 18. Акты о копных судах. Вильна, 1891; Акты, издаваемые Виленскою комиссиею... Т. 38. Инвентари староств, имений, фольварков и деревень XVIII века (1720—1798 гг.). Вильна, 1914; Kodeks dyplomatyczny katedry i diecezji wileńskiej. T. 1. Kraków, 1948. *В. Л. Насевіч.*

**ВАЦЭ́ЦІС** Іаакім Іаакімавіч [11(23).11. 1873, маёнтак Нейгоф Гольдзінгенскага пав. Курляндскай губ., цяпер Салдускі р-н, Латвія — 28.7.1938], савецкі военачальнік, камандарм 2-га рангу (1935). У арміі з 1891. Скончыў Акадэмію Ген. штаба (1909). У 1-ю сусв. вайну палкоўнік. У дні Кастр. рэвалюцыі перайшоў на бок сав. улады, уступіў у Чырв. гвардыю, камандаваў 2-й латышскай брыгадай. Са снеж. 1917 нач. аддзела Рэв. палявога штаба пры Стаўцы вярх. галоўнакамандуючага ў Магілёве. З 28.1.1918 камандаваў войскамі пры ліквідацыі *Доўбар-Мусніцкага мяцяжу 1918.* З крас. 1918 нач. латышскай стралк. дывізіі, адзін з ваен. кіраўнікоў ліквідацыі левааэраўскага мяцяжу ў Маскве (ліп. 1918). У ліп.— вер. 1918 камандуючы Усх. фронтам, у вер. 1918— ліп. 1919 галоўнакамандуючы Узбр. Сіламі РСФСР. Са жн. 1919 у РВС Рэспублікі. З 1921 выкладаў у Ваен. акадэміі РСЧА. Аўтар ваен.-навук. прац. Неабгрунтавана рэпрэсіраваны. Рэабілітаваны пасмяротна.

**ВАШКЕ́ВІЧ** Аляксандр Аляксандравіч [15(28).8.1901, в. Белавеж Пружанскага пав., Гродзенскай губ., цяпер Беластоцкага ваяводства, Польшча — 22.4.1945], Герой Сав. Саюза (1943), ген.-м. (1945). У Чырв. Арміі з 1919. Удзельнік грамадз. вайны. Скончыў кулямётную (1920) і Ваен. пяхотную (1925) школы. З лют. 1943 на Варонежскім, Сцяпным, 2-м і 1-м Укр. франтах. Камандзір стралк. палка падпалк. В. вызначыўся пры фарсіраванні Дняпра. У ноч на 27.9. 1943 арганізаваў пераправу палка каля в. Перавалочная Кішэнькаўскага р-на Палтаўскай вобл.; без страт у жывой сіле і тэхніцы полк замацаваўся на плацдарме і паспяхова працягваў наступленне. У складзе 2-й арміі Войска Польскага ў жн. 1944 камандаваў пях. дывізіяй. Загінуў каля г. Баўтцэн у час Берлінскай аперацыі. Пахаваны ў Варшаве. Яго імем названа вуліца ў г. Пружаны.

**ВАШКЕ́ВІЧ** Уладзімір Раманавіч [17(30).3.1900, мяст. Зембін Барысаўскага пав., цяпер вёска Барысаўскага р-на — 10.6.1970], генерал-палкоўнік (1954). У Чырв. Арміі з 1918. Удзельнік грамадз. вайны. Скончыў Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1928). У Айч. вайну на Зах., Калінінскім і 3-м Прыбалтыйскім франтах: камандзір дывізіі, нач. штаба арміі, нач. штаба 3-га Прыбалтыйскага фронту. Удзельнік абароны Масквы, вызвалення Эстоніі, Латвіі. З 1945 нач. штаба Прыбалтыйскай і Закаўказскай ваен. акруг. У 1955—56 нач. кафедры Ваен. акадэміі Генштаба, да 1961 на навук. рабоце.

**ВА́ШЧАНКА** Аляксей Ягоравіч (каля 1920, в. Воската Невельскага пав. Віцебскай губ., цяпер Гарадоцкі р-н — 5.9.1942), герой Вял. Айч. вайны. Вызначыўся на Сталінградскім фронце. 5.9.1942 аўтаматчык В. ў крытычны момант бою, калі праціўнік адкрыў кулямётны агонь з замаскіраванага дзота, з воклічам «За Радзіму!» кінуўся на дзот і закрыў сваім целам амбразуру. Пасмяротна ўзнаг. ордэнам Леніна. Навечна занесены ў спісы стралк. роты. Яго імем названа вуліца ў Валгаградзе.

А. А. Вашкевіч.

У. Р. Вашкевіч.



А. Я. Вашчанка.

**ВАШЧА́НКА** Васіль Максімавіч (?—?), беларускі гравёр па дрэве канца 17— 1-й пал. 18 ст. Прадстаўнік Магілёўскай школы гравюры. Сын М. Я. *Вашчанкі.* Працаваў у Магілёве ў друкарні Богаяўленскага брацтва (1694—1730). Большасць падпісаных і непадпісаных твораў (паводле некаторых звестак іх 22) звязана з кніжнай графікай. Выканаў дрэварыты: загалоўныя лісты ў кнігах «Дыёптра» (1698), «Неба новае» І. Галятоўскага, «Перла мнагацэннае» К. Т. Стаўравецкага (абодва 1699), «Кніга жыцій святых» Дз. Растоўскага (1702, загаловачны ліст з відам Магілёва); лісты «Іаан Дамаскін», «Нараджэнне Хрыста» для «Асмагласніка» І. Дамаскіна (1730), антымінсы 1694, 1708 («Палажэнне ў труну Хрыста») і 1723 (з Богаяўленскага манастыра ў Полацку). Гравюры вылучаюцца майстэрскай пабудовай кампазіцыі, сялянскім тыпажом, дасканаласцю пластычнага малюнка, выразнасцю контурных ліній.

*Літ.:* Жудро Ф. История Могилевского богоявленского братства. Могилев, 1890; Шчакаціхін М. Васіль Вашчанка — магілеўскі гравёр канца XVII — пач. XVIII ст. Мн., 1925; 450 год беларускага кнігадрукавання. Мн., 1968. *В. Ф. Шматаў.*

**ВА́ШЧАНКА** Гаўрыла Харытонавіч (н. 20.6.1928, в. Чыкалавічы Брагінскага р-на), беларускі манументаліст і жывапісец. Засл. дзеяч мастацтваў Беларусі (1977). Нар. мастак Беларусі (1988). Праф. (1980). Скончыў Львоўскі ін-т прыкладнога і дэкаратыўнага мастацтва (1955). З 1961 у Бел. тэатр.-маст. ін-це (з 1991 Бел. акадэмія мастацтваў), з 1975 заг. кафедры манументальна-дэкаратыўнага мастацтва. Працуе ў галіне станковага жывапісу і акварэлі, манументальнай размалёўкі і вітража. Бел. гісторыі прысвечаны палотны «Ад Савецкага інфармбюро» (1967), «Балада пра мужнасць» (1974), трыпціх пра паўстанне К. Каліноўскага «За зямлю, за волю», «Прарыў» (абодва 1983), «Грунвальдская бітва», «Хроніка пераможнай вясны», «Салдацкі хлеб» (усе 1985), «Онус, 37» (1989). Стварыў цыкл партрэтаў дзеячаў бел. культуры і дзяржавы, асветнікаў Я. Купалы (1982), Ф. Скарыны (1985), М. Багдановіча (1988), Ефрасінні Полацкай (1989), Сымона Буднага, Вітаўта, Льва Сапегі, Кірылы Тураўскага, Васіля Цяпінскага (усе 1990), Канстанціна Астрожскага (1993). Сярод тэматычных твораў В. «Маё Палессе» (1971), «Нафтавікі Палесся» (1973), «Мацярынскія крылы» (1975), «Дыялог» (1978), «Спакон вякоў» (1980), пейзажы «Роздум» (1966), «Зацьменне» (1977), «Прастор» (1978), «Між Дняпром і крыкам жураўліным», «Мір зямлі маёй» (абедзве 1982), нацюрморты «Цыкламен» (1966), «Дума пра хлеб» (1973), «Верасень» (1974), «Нацюрморт з барэльефам Гусоўскага» (1986). Стварыў манументальныя размалёўкі «Зямля Светлагорская» (1972), Палац культуры хімікаў у Светлагорску (тэмпера), «Асветнікі» (1976, Дом настаўніка, энкаўстыка), вітражы ў касцёле Сымона і Алены (1971—74), вітражы і люстры ў кінатэатры «Масква» (1980, у сааўтарстве з М. Вашчанкам; усе ў Мінску).

*Тв.:* Балада аб мужнасці: З творчага вопыту // Выяўленчае мастацтва Беларусі. Мн., 1981.

*Літ.:* Шаура Р. Ф. Г. Х. Вашчанка.

Мн., 1978; Воронова О. П. Гавриил Ващенко: Живопись, монументальное искусство: [Альбом]. М., 1980.
*Г. А. Фатыхава.*

**ВАШЧА́НКА** Максім Ярмалівіч (1650-я гады, Магілёў — 1708), беларускі друкар і гравёр па медзі. Адзін з заснавальнікаў Магілёўскай школы гравюры, арандатар *Магілёўскай Богаяўленскай друкарні*. Вучыўся ў Віленскай езуіцкай акадэміі, дзе атрымаў ступень бакалаўра філасофіі і вольных мастацтваў (1672), званне магістра навук (1673). Мастацтву малюнка і гравюры, відаць, вучыўся ў Віленскай акадэміі ў гуртку А. Тарасевіча, працаваў у Вільні разам з А. Крышчановічам, Тарасевічам, М. Шчырскім. Друкарскую дзейнасць пачаў у Слуцку, дзе ў 1678 зрабіў ілюстрацыі да кн. «Манархія Турэцкая» П. Рыко. 19 падпісных медзярытаў В. з'яўляюцца копіямі гравюр французскіх мастакоў С. Леклерка, Н. Кашэна для парыжскага выдання 1670 кнігі Рыко. З 1680-х гадоў працаваў у Магілёўскай брацкай друкарні, якой кіраваў з 1690-х гадоў да 1708. Выканаў каля 30 медзярытаў для кн. «Акафісты і каноны» (1693; друкаваліся таксама ў кнігах «Акафісты і каноны», 1726 і «Акафісты», 1728). Адзін з першых у бел. кірылічным кнігадрукаванні ўжыў тэхніку разцовага медзярыту. Многія працы В. створаны пад уплывам зах.-еўрап. традыцый. Яго творы вылучаюцца ўмелай кампаноўкай шматфігурных сцэн, багаццем святлоценявой мадэліроўкі, дасягнутай за кошт разнастайнай штрыхоўкі. Яго сын В. М. Вашчанка вядомы як майстар выдатных дрэварытаў.

*Літ.:* Жудро Ф. История Могилевского богоявленского братства. Могилев, 1890.
*А. М. Пікулік.*

**ВАШЧЫ́ЛА** Васіль Мацвеевіч (1690, в. Лобжа Крычаўскага пав. Мсціслаўскага ваяв., цяпер Клімавіцкага р-на — 28.8.1744), кіраўнік сялянскага руху і ўзбр. паўстання супраць феад. прыгнёту ў Крычаўскім старостве ў 1740-я гады. Селянін в. Селішчы. Неаднаразова насіў уладальніку староства Радзівілу скаргі сялян на злоўжыванні і самавольства арандатараў, за што неаднаразова быў зняволены. Сваёй непрымірымасцю і актыўнай барацьбой супраць феад. ўціску заваяваў павагу і аўтарытэт жыхароў сваёй і суседніх вёсак, таму быў выбраны войтам в. Селішчы. У маі 1740 узначаліў першы ўзбр. атрад з некалькіх сотняў сялян, да якога пазней далучыліся сяляне з інш. шляхецкіх уладанняў і з-за мяжы. У сярэдзіне 1741 у сял. хваляваннях, якія ахапілі большую частку Крычаўскага староства, удзельнічала некалькі тысяч чалавек. Сяляне рабілі спробы знішчыць прадпрыемствы па вырабе паташу, грамілі маёнткі заможнай шляхты і ліхвяроў, знішчалі даўгавыя кнігі. У канцы 1743 — пач. 1744 антыфеад. барацьба прыняла характар узбр. паўстання (гл. *Крычаўскае паўстанне 1743—44*). У баях пад Крычавам і каля в. Царковішча войскі Гераніма Радзівіла разбілі дрэнна ўзбр. сялянскія атрады і жорстка расправіліся з паўстанцамі. В. ўдалося ўцячы на Латакоўскі расійскі фарпост, адкуль ён быў пераведзены на Цімошынскую пагранічную заставу. Радзівіл запатрабаваў выдаць В. як сял. важака, які павінен адказаць за ўсе «ліхадзействы». Каб не трапіць у рукі карнікаў, В. выдаў сябе за расійскага падданага. Пакуль ішло следства, ён сядзеў у Кіева-Пячэрскай крэпасці, дзе захварэў на дызентэрыю і неўзабаве памёр.

*Літ.:* Мелешко В. И. Классовая борьба в белорусской деревне во второй половине XVII—XVIII в. Мн., 1982; Яго ж. Дело Вощилы: Новые разыскания // Неман. 1987. № 5; Мялешка В. І., Лойка П. А. Паўстанне сялян пад кіраўніцтвам Вашчылы. Мн., 1988.
*В. І. Мялешка*

В. М. Вашчанка. Ілюстрацыя да «Кнігі жыцій святых». Ксілаграфія. 1702.

М. Я. Вашчанка. Ілюстрацыя да кнігі «Манархія Турэцкая, апісаная Рыко». Медзярыт. 1678.

**ВАЯВО́ДА,** 1) у Старaж. Русі і іншых слав. краінах — начальнік княжацкай дружыны або кіраўнік нар. апалчэння. Згадваецца ў рус. летапісах з 10 ст. У канцы 15—17 ст. кожны з 5 асн. палкоў рус. войска меў аднаго ці некалькі В. У 2-й пал. 17 ст. палкавыя В. захаваліся толькі ў разрадных палках. Ліквідаваны ў пач. 18 ст.

2) У ВКЛ і Рэчы Паспалітай — службовая асоба, кіраўнік мясц. адміністрацыі ў *ваяводстве*. Засядаў у радзе ВКЛ, а пасля *Люблінскай уніі 1569* і ў сенаце Рэчы Паспалітай. Прызначаўся пажыццёва з ліку буйных феадалаў, абавязкова ўраджэнцаў ВКЛ, у Полацкім і Віцебскім ваяводствах — са згоды мясц. феадалаў, у некаторых мясцовасцях — з феад. асяроддзя. Як прадстаўнік велікакняжацкай улады адстойваў інтарэсы мясцовай феад. знаці. Да 1540 віленскія і трокскія В. былі літ. паходжання, католікі. У 1451—1500 з 19 асоб, якія займалі гэтыя пасады, 14 былі літ. паходжання, 3 бел., 2 укр.; 14 з іх былі католікамі, 5 праваслаўнымі. У 1501—25 з 29 асоб 17 літ. паходжання, 6 бел., 5 укр. і 1 польскага, 19 з іх былі католікамі і 10 праваслаўнымі. У 1526—50 з 37 асоб, што займалі пасады В., 23 былі літ. паходжання, 7 бел., 5 укр., 1 польскага, 1 рускага (велікарускага); з іх 27 былі католікамі і 10 праваслаўнымі. У сувязі з пашырэннем правоў мясц. шляхты і яе

Г. Вашчанка. Асветнікі. Фрагмент насценнай размалёўкі ў Доме настаўніка ў Мінску.

паліт уплыву на тэр. Беларусі змяніўся этнічны і рэліг. склад В. У 1551—69 з 16 асоб, што займалі пасады В., 5 было літ. паходжання, 3 бел., 6 укр. і 2 польскага; з іх 6 католікаў, 3 праваслаўныя і 7 кальвіністаў. У больш познія часы ў сувязі з паланізацыяй магнатаў і шляхты паходжанне і веравызнанне В. не мелі прынцыповага значэння. Колькасныя суадносіны В. паводле этнічнага паходжання і рэліг. прыналежнасці сведчаць пра кансалідацыю феадалаў у ВКЛ Асн абавязкі В — ажыццяўленне адм. улады, кантроль над крыніцамі дзярж і велікакняжацкіх даходаў, арганізацыя ўзбр. сіл у ваяводстве, выкананне судовых функцый у замкавым судзе. Карыстаўся значнай незалежнасцю ад цэнтр. дзярж. органаў.

3) У Расійскай дзяржаве з сярэдзіны 16 ст гарадавы В.— кіраўнік вайсковай і цывільнай адміністрацыі ў горадзе і адпаведным павеце Канцэнтраваў усю паўнату ўлады на месцах, кантраляваў органы губнога і земскага самакіравання Пасля рэформы Пятра I у 1719 В.— кіраўнік правінцыі (адзінкі, на якія падзялялася губерня), падпарадкоўваўся губернатару. У 1775 правінцыі, а разам з імі пасады В ў расійскай адм -тэр. сістэме былі скасаваны, яны захаваліся толькі ў Магілеўскай і Пскоўскай губ., у склад якіх увайшла тэр. паўн. і ўсх. Беларусі, далучаная да Расіі паводле 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (ліквідаваны ў 1778 пасля пашырэння на тэр. Магілеўскай і Полацкай губ закону ад 7.1.1775 «Пасады для кіравання губерняў Усерасійскай імперыі»).

4) У Польшчы, у т. л. і ў Зах. Беларусі, у 1920—39 В.— кіраўнік усей адміністрацыі ваяводства, адначасова кіраўнік выканаўчага органа ваяводскага тэр самакіравання. Пасада В. была адноўлена ў 1944 і існавала ў Польшчы да 1950, адноўлена ў 1973

5) Назва гаспадара Валахіі і Малдовы ў 14—18 ст. *А П Грыцкевіч*

**ВАЯВО́ДСТВА,** 1) адміністрацыйна-тэр адзінка ў ВКЛ у 15—18 ст. Узнікла як ваен.-адм. акруга, уведзена паводле *Гарадзельскага прывілея 1413,* калі на аснове былых княстваў былі ўтвораны *Віленскае ваяводства* і *Трокскае ваяводства.* У Віленскае В. ўвайшла тэрыторыя паўн.-ўсх. літоўскіх зямель і большая частка зах., цэнтр. і ўсх. зямель Беларусі. У вайсковых адносінах віленскаму ваяводу падпарадкоўваліся намеснік навагрудскі, а таксама фактычна аўтаномныя *Слуцкае княства, Клецкае княства* (да 1521) і *Мсціслаўскае княства* (да 1529), якія фармальна ўваходзілі ў Віленскае В. Трокскае В ў 15 — пач. 16 ст. ўключала цэнтр. і паўд. часткі Літвы і значную частку зах і паўд. зямель Беларусі. У Трокскае В. ўваходзілі *Кобрынскае княства* і *Пінскае княства* На У Беларусі Трокскае В. мела невял участкі тэрыторыі пасярод Віленскага В.— 28 сел Бабруйскай воласці з Мышкавічамі, Парычамі і Шацілкавічамі — т зв. «трокская палова» і г. Бабруйск і 18 сел — «віленская палова» Трокскаму ваяводу падначальваліся намеснікі берасцейскі (брэсцкі), а таксама бельскі, дарагічынскі, мельніцкі на Падляшшы. Палавіна тэр. Трокскага В. прыпадала на бел. землі. Астатняя тэр. Беларусі ў 15 ст. ў склад В. не ўваходзіла, захоўваючы статус аўтаномных зямель. У пач. 16 ст. ў ВКЛ праведзены рэформы, якія далі магчымасць уніфікаваць яго адм.-тэр. падзел. Форма і структура яго былі наближаны да адм.-тэр. падзелу саюзнага Каралеўства Польскага. У 1504 *Полацкая зямля* пераўтворана ў *Полацкае ваяводства* без паветаў (фармальна лічылася адным паветам). У студзені 1507 са складу Віленскага В вылучана Новагародскае ваяводства, у 1508 Смаленская зямля пераўтворана ў В., а ў 1513 Бельскі, Дарагічынскі і Мельніцкі паветы, вылучаныя з Трокскага В., аб'яднаны ў Падляшскае В. Аднак утварэнне новых В у пач. 16 ст. па сутнасці не змяніла спосабаў кіравання дзяржавай. прадстаўніком велікакняжацкай улады і военачальнікам феад апалчэння ў В заставаўся *ваявода,* які ажыццяўляў таксама судова-адм. функцыі Шэраг зямель у ВКЛ захоўваў аўтаномію на аснове зацвярджэння ў граматах вял. князямі літоўскімі даўніх традыцый кіравання («мы старыну не рухаем»). Мясц. баяры і князі захоўвалі свае пануючае становішча, што было паліт. уступкай бел і укр. феадалам. Жыхарам Віцебскай і Полацкай зямель пацвярджалася права мець намесніка або ваяводу «па іх волі» Да адм. рэформ 1565—66 у ваяводскіх соймах прымалі ўдзел усе феадалы, толькі ў шэрагу выпадкаў у іх удзельнічалі вярхі гараджан гал горада В. Пасля рэформы шляхта атрымала пэўную магчымасць уплываць на справы мясц. кіраўніцтва ў пав. або ваяводскіх (дзе не было паветаў) сойміках Рэформа таксама ўстанавіла межы В. і паветаў, якія захаваліся (за невялікімі выключэннямі) да 2-й пал. 18 ст. Віленскі сойм падзяліў ВКЛ на 30 паветаў, якія ўвайшлі ў 13 В. Створаны Берасцейскае, Мсціслаўскае, Мінскае, а таксама Валынскае і Брацлаўскае (у Падоллі) В. Пасля рэформы Віленскае В. складалася з пяці паветаў (Ашмянскі, Браслаўскі, Віленскі, Вількамірскі і Лідскі), Трокскае — з чатырох (Гродзенскі, Ковенскі, Троцкі і Упіцкі), Навагародскае — з трох (Ваўкавыскі, Навагародскі, Слонімскі), Падляшскае — з трох (Бельскі, Дарагічынскі і Мельніцкі), Кіеўскае — з двух (Кіеўскі, у склад якога ўваходзіла Брагінская воласць, і Мазырскі), Віцебскае — з двух (Аршанскі і Віцебскі), Берасцейскае — з двух (Берасцейскі і Пінскі), Полацкае (без паветаў), Мінскае — з двух (Мінскі і Рэчыцкі), Мсціслаўскае (без паветаў), Валынскае — з трох (Крамянецкі, Луцкі і Уладзімірскі), Брацлаўскае — з трох (Брацлаўскі, Вінніцкі і Звянігарадскі паветы). У складзе Новагародскага пав захавалася як асобная адм.-тэр. адзінка (са значнымі рысамі феад. удзельнага княства) Слуцкае княства, якое было пад уладай князёў Алелькавічаў Фармальна працягвала існаваць Смаленскае В, хоць Смаленск у 1514 далучаны да Расіі, у 1611—54 у складзе ВКЛ Яно падзялялася на два пав.— Смаленскі і Старадубскі. Пасля 1654 смаленская шляхта была паселена на тэрыторыі ад Браслава да Вільні, у якой збіраліся сойміки абодвух паветаў. Істотныя тэрытарыяльныя змены ў ВКЛ адбыліся у 1569 напярэдадні Люблінскай уніі. Са згоды мясц. шляхты далучаны да Польшчы Падляшша (5.3 1569), Валынскае (26.5.1569), Брацлаўскае (1.6.1569), Кіеўскае (5.6 1569) В. Мазырскі пав. быў уключаны ў Мінскае В. У выніку гэтага колькасць В. у ВКЛ зменшылася да 9 а паветаў да 22 (з іх 16 на тэр Беларусі) У 1793 пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай соймператварыў Браслаўскі і Гродзенскі паветы ў В 20.12 1793 ліквідаваны Мінскае, Мсціслаўскае, Полацкае, Віцебскае і Смаленскае В, тэрыторыя якіх адышла да Расійскай імперыі, астатнія В. на тэр. Беларусі скасаваны пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай В мелі свае гербы і ваяводскія харугвы (штандары).

2) У 1921—39 адм -тэрытарыяльная адзінка на тэр. Зах. Беларусі, якая знаходзілася ў складзе Польшчы і ахоплівала Беластоцкае, Віленскае, Навагрудскае і Палескае В.

3) У Расіі ў 16—18 ст. сістэма кіравання на чале з ваяводамі.

*Літ* Любавский М К Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно 2 изд М, 1915, Пичета В И Белоруссия и Литва XV—XVI вв М, 1961, Baliński M, Lipiński T Starożytna Polska pod względem historycznym, jeograficznym i statystycznym T 3 Warszawa, 1846 *А П Грыцкевіч*

**ВЕВЯРЫ́ЦА** (векша, сучаснае бел.— ваверка), старажытнаруская плацежная адзінка Назву атрымала ад ваверчынай скуркі, што з'яўлялася таварам-грошамі У 10—11 ст. гэта манетны фрагмент (0,33—0,50 г) куфіцкага *дырхема* або заходнееўрап. *дэнарыя.* У 11 ст складала $^1/_{100}$—$^1/_{150}$ *грыўні* кун, $^1/_5$—$^1/_8$ нагаты, $^1/_4$—$^1/_6$ *куны,* $^1/_2$—$^1/_3$ разаны У 12—13 ст. устарэлы тэрмін, што азначаў вельмі нязначную, мізэрную суму

*Літ* Янин В Л Денежио-весовые системы русского средневековья Домонгольский период М, 1956, Рябцевич В Н О чем рассказывают монеты 2 изд Мн, 1977

**ВЕВЯРЭ́СК,** летапісны горад, які ўпамінаецца ў «Спісе рускіх гарадоў далекіх і блізкіх» у канцы 14 ст. сярод гарадоў ВКЛ. У даследчыкаў няма адзінага пункту гледжання наконт месцазнаходжання гэтага горада. Рускі гісторык М. М. Ціхаміраў адносіў яго да ліку загадкавых Археолаг В. В. Сядоў атаясамліваў летапісны В. з гарадзішчам каля в. Касцянева Шчучынскага р-на і лічыў, што назва горада паходзіць ад гідроніма — назвы р. Ваверка (левы прыток р. Лебяда, што ўпадае ў Неман). Але малаверагодна, каб гідронім даў назву пасяленню, ад якога р Ваверка працякае за

16—18 км. Больш верагодна, што летапісны В. існаваў на месцы сучаснай в. Ваверка Лідскага р-на, што размяшчаецца на р. Ваверка. У дакументах 16 ст. ўпамінаецца пад назвай Гарадзішча.

*Літ.:* Тихомиров М. Н. Русское летописание. М., 1979; Седов В. В. К истории поселений Черной Руси // Краткие сообщения Ин-та археологии АН СССР. М., 1974. Вып. 139. *С. А. Піваварчык.*

**ВЕД** Антоній (1500, Надрэйнская вобл., цяпер Германія — 1558), нямецкі картограф, мастак і гравёр. З 1535 жыхар Гданьска. Аўтар карты ўсх. часткі Беларусі і Маскоўскага вял. княства, складзенай у Вільні і выгравіраванай у Гданьску ў 1535 (выд. 1542). Карта зроблена на падставе матэрыялаў, сабраных В. у выніку ўласных паездак, ад інш. падарожнікаў, у т. л. С. *Герберштэйна*, з розных еўрап. крыніц. Беглым царскім акольнічым Іванам Ляцкім перададзены важныя матэрыялы, якія ён падрыхтаваў у Маскве і прывёз у Вільню ў 1534. Карта мае прадмову аўтара на старабел. мове з невял. колькасцю паланізмаў. Найб. ранняе свецкае бел. выданне, надрукаванае кірыліцай. На карце нанесены важныя замкі бел.-маскоўскага парубежжа: Веліж, Віцебск, Гомель, Кіеў, Крычаў, Орша, Полацк, Смаленск; паказаны рэкі Зах. Дзвіна, Дзясна, Сож. Ёсць інфармацыя і малюнак Аршанскай бітвы 1514. Аналіз інвентарных апісанняў пазначаных на карце бел. замкаў, іх параўнанне з планіграфічнымі і археал. данымі сведчаць пра тое, што малюнкі зроблены з натуры. Гэта ставіць карту В. ў разрад каштоўных гіст. крыніц. Яна дала пачатак бел.-літ. картаграфіі 16 ст. У 1545—46 В. жыў у Вільні, дзе выконваў мастацкія работы на заказ польскага караля і вял. князя ВКЛ Жыгімонта II Аўгуста.

*Літ.:* Zwoliński P. Najstarszy świecki druk białoruski: (Antwerpia, 1542 r.) // Slavia Orientalis. Warszawa, 1968. N 3; Alexandrowicz St. Rozwój kartografii Wielkiego Księstwa Litewskiego od XV do połowy XVIII wieku. 2 wyd. Poznań, 1989. S 57—62. *М. А. Ткачоў*

**«ВЕ́ДА»**, навукова-літаратурны часопіс бел. эміграцыі. Выдаваўся ў 1951—54 у Нью-Йорку на бел. мове Крывіцкім (Беларускім) навук. т-вам Пранціша Скарыны. Гал. рэдактар Я. *Станкевіч*, рэдактар літ. аддзела А. *Адамовіч*. У 1951 выйшла 5 сшыткаў, у 1952 — 12 нумароў у 10 сшытках, у 1953 — 10 нумароў у 4 сшытках, у 1954 — 1 нумар. Друкаваў гіст., этнагр., мовазнаўчыя і інш. навук. матэрыялы: «Кароткі начырк гісторыі Крывіч-Беларусі», «Зборкі чысціні мовы», «Некаторыя праўніцкія тэрміны беларускія», «Беларускі слоўнік І. Насовіча і Расійская акадэмія навук», «Беларускія плямёны», «Этнаграфічныя і гістарычныя тэрыторыі і граніцы Беларусі», «Жмудзь» ці «Жамойць», «Мова рукапісу «Аль Кітаб» крывіцкага музею Івана Луцкевіча ў Вільні», «Доля мовы беларускае (яе вонкашняя гісторыя) у розныя перыяды гісторыі Беларусі», «Мова вяцічаў» Я. Станкевіча; «Трагедыя з несвядомасці (з гісторыі Беларусі 19—20 ст.)» П. Янучонка; «Прафесар Мітрафан Доўнар-Запольскі» А. Саковіч; «Тое-сёе аб друкарскіх майстрах беларускіх — Пятру Мсціслаўцу, Івану Федаровічу і Грыню Іванавічу» М. Прынскага; «Літоўскі — не летувіскі корпус. 1817—1831» А. Пруса; «Беларуская народная песня ў творчасці выдатных кампазітараў» М. Куліковіча і інш. У часопісе друкаваліся літ. творы бел. пісьменнікаў на эміграцыі: У. Клішэвіча, М. Сяднёва, У. Сядуры, Я. Юхнаўца, К. Юхневіча і інш. Змяшчаў таксама інфармацыю пра грамадскае і культ. жыццё бел. асяродка ў Амерыцы. Дадаткам да час. ў 1953 выдадзены творы У. Жылкі, успаміны Кветкі Вітан пра Л. Дубейкаўскага. *Г. І. Сурмач.*

Вуглавая вежа Мірскага замка. 16 ст. Карэліцкі р-н.

**«ВЕ́ДАМАСЦІ ВЯРХО́ЎНАГА САВЕ́ТА РЭСПУ́БЛІКІ БЕЛАРУ́СЬ»**, выданне Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Выходзіць са снеж. 1990 у Мінску на бел. і рус. мовах 3 разы на месяц. Друкуюць законы Рэспублікі Беларусь і інш. акты, прынятыя Вярх. Саветам і Прэзідыумам Вярх. Савета Рэспублікі Беларусь, а таксама міжнар. дагаворы, дапаўненні, папраўкі, пратаколы і дадаткі да іх, заключаныя ад імя Рэспублікі Беларусь і ратыфікаваныя Вярх. Саветам Рэспублікі Беларусь. Да 1990 выдаваўся *«Збор законаў Беларускай ССР, указаў Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, пастаноў Савета Міністраў Беларускай ССР»*.

**ВЕ́ДРЫЦКІ БОЙ 1943** у Вялікую Айчынную вайну, бой партызанскіх брыгад 99-й Калінкавіцкай (камандзір В. А. Караткевіч), 101-й Дамандвіцкай (камандзір М. А. Чарнавусаў), Васілевіцкай імя П. К. Панамарэнкі (камандзір С. А. Смерцін) супраць ням.-фаш. акупантаў ва ўрочышчы Ведрыч Васілевіцкага р-на ў жн. 1943. Партызанская разведка ўстанавіла, што на жывёлагадоўчай базе «Лугас» гітлераўцы падрыхтавалі да адпраўкі ў Германію 2 тыс. галоў буйной рагатай жывёлы, нарабаванай у мясц. насельніцтва. Камандаванне Палескага партыз. злучэння вырашыла перашкодзіць планам захопнікаў і знішчыць гарнізон, які ахоўваў базу. 23.8.1943 партызаны блакіравалі гарнізон з Пд, каб не дапусціць падыходу падмацавання з боку чыг. ст. Васілевічы, кулямётным агнём падавілі дзоты праціўніка і авалодалі базай. Большая частка гарнізона была знішчана, захоплена больш за 500 галоў жывёлы. Партызаны страцілі 12 чал. забітымі і паранёнымі. *У. С. Пасэ.*

**«ВЕ́ДЫ»**, грамадскае культурна-асветнае таварыства. Створана 29.3.1948 як рэсп. аддзяленне Усесаюзнага т-ва па распаўсюджванні паліт. і навук. ведаў (у 1963—91 рэсп. аддзялення Усесаюзнага т-ва «В.»). Вышэйшы орган — з'езд (склікаецца раз у 5 гадоў), паміж з'ездамі — праўленне т-ва. Дзейнічаюць 6 абл., 142 гар. і раённыя арг-цыі (1993). Мэта т-ва — павышэнне агульнаадук. і культ. ўзроўню насельніцтва, кваліфікацыі работнікаў, забеспячэнне бесперапыннай адукацыі, абучэнне працоўных новым прафесіям, садзейнічанне прадпрыемствам і арг-цыям ва ўкараненні ў вытворчасць навук. дасягненняў і перадавых тэхналогій. Ажыццяўляе кансультацыйную, экспертную, выдавецкую, навукова-даследчую, медыка-аздараўленчую, рэкламную, вытв. дзейнасць. Формы работы: лекцыі, семінары, курсы, лекторыі, канферэнцыі і інш. Членамі т-ва з'яўляюцца навукоўцы (7,6 тыс. дактароў і кандыдатаў навук), дзеячы культуры, спецыялісты розных галін нар. гаспадаркі. *Л. А. Ляўчук.*

**ВЕ́ЖА** абарончая, ваенна-архітэктурнае збудаванне са значнай перавагай вышыні над стараной ці дыяметрам асновы. Будавалася з дрэва, каменю або цэглы, стаяла асобна ці была часткай абарончага комплексу. Акрамя абарончай функцыі (у сістэме гар. фартыфікацыі) адыгрывала ролю брамы, жылля феадала, апошняга пункта абароны (данжон, стоўп) і інш. В. выкарыстоўваліся для назірання за праціўнікам і ў процілажарных мэтах (сігнал трывогі падаваўся спец. «ратным» або «трывожным звонам»), для фланкіруючага абстрэлу абарончых сцен, подступаў да іх і брам, былі месцам сховішча для войск і амуніцыі, у ніжнім або 2-м ярусах В. размяшчаліся храм ці капліца. На тэр. Беларусі драўляныя В. паявіліся ў раннім жал. веку, адначасова з першымі зрубнымі жытламі, першыя мураваныя В. і сцены з плінфы і валуноў зроблены ў 12 ст. на Гродзенскім дзядзінцы. З 2-й пал. 13 ст. мураваныя вежы-стаўпы (гл. *Валынскія вежы*) паявіліся ў Камянцы, Брэсце, Тураве, Гродне, Навагрудку, у 15—16 ст.— у

Мядзельскім і Полацкім замках. У плане яны былі круглыя дыяметрам да 13,5 м (Камянец, Тураў, Мядзел) і прамавугольныя памерам ад 5,9×6,3 м да 12×12 м (Брэст, Навагрудак), вышынёй да 25—30 м. У 14 ст. чатырохгранныя мураваныя В. злучаныя з высокімі сценамі (10—12 м), сталі адметнай асаблівасцю *Лідскага замка* і *Крэўскага замка*. У той час пачаўся вынас В. за лінію сцяны замка, узніклі фланкіруючыя В. (Крэўскі замак), значная колькасць іх была ў мураваных замках 14—16 ст. (у Гродзенскім замку канца 14 ст.— 5, у Полацкім Верхнім замку ў 15 ст.— 9, у Навагрудскім замку ў 16 ст.— 7, у віцебскіх замках сярэдзіны 17 ст.— каля 30). Камбінаваныя В. з каменю, цэглы і дрэва існавалі пэўны час у Оршы і Віцебску, вежы фахверкавай канструкцыі (т. зв. «прускі мур») былі ў 17 ст. ў Любчы. Мураваныя В. ў архітэктуры стыляў готыкі і рэнесансу аздаблялі сістэмай ніш, паяскоў, парэбрыкаў і інш. дэкаратыўных элементаў. Заглыбленыя нішы ў сценах В. тынкавалі і бялілі вапнай, што вылучала іх на чырвонай цаглянай муроўцы сцен, стварала ўражанне двухколернага вырашэння фасадаў. Гэты прыём асабліва выявіўся ў архітэктуры *Мірскага замка*. Развіццё мураваных В. ішло па лініі камбінавання граней: прамавугольныя ў аснове вежы на ўзроўні 1—2-га паверхаў пераходзілі ў васьмігранніку. Звычайна мураваныя В. мелі 3—5 ярусаў, найбольшая таўшчыня сцен была ўнізе, па меры павышэння яны звужаліся і патанчаліся. Мураваныя вежы ўзводзілі ў тэхніцы 3-слойнай лусковай муроўкі: «шчокі» сцен муравалі з цэглы, усярэдзіне выкарыстоўвалі бут на вапнавай рошчыне. Ніжні ярус і сутарэнні часта рабілі з валуноў. Драўляныя В. спачатку былі толькі прамавугольныя, іх вышыня не намнога перавышала вышыню драўляных абарончых сцен. У 16—17 ст. рабілі шасці-, васьмігранныя В. на 2—5 ярусаў, а ў Мазыры нават 7-ярусныя. Канструкцыйна драўляныя вежы былі даволі складаныя, мелі разнастайныя байніцы, разлічаныя на стральбу з лукаў і арбалетаў, таксама і з ручной агнястрэльнай зброі і з гармат. Артылерыйскія «стрельницы земные» — байніцы ў ніжнім ярусе вежаў вядомы па Полацкай рэвізіі 1552. Таўшчыня сцен залежала ад размяшчэння В. ў лініі абароны горада або замка: на небяспечным («прыступным», «напольным») баку вежы мелі сцены, рубленыя ў 2, 3, 4 і нават 5 бярвён (Полацкі Верхні замак). Часта ў адной і той жа вежы сцены мелі розную таўшчыню з розных бакоў на розных узроўнях. Напр., у Магілёўскім замку ў 1604 з боку Дняпра была 4-ярусная («у 4 памосты») вежа, зрубленая са знешняга боку ў 3 бервяны, з унутранага — у 2 бервяны. У Віцебскім Верхнім замку васьмігранная ў плане 4-ярусная вежа «Шарамеццеў круглік» была зрублена трояка: ніжні ярус у 3 бервяны, сярэдні — у 1, а верхняя — у 2 бервяны. Часта вяршыню вежы заканчвала «трапіла» — шасцігранная вежачка невял. памеру для пажарнай варты. На В. шмат якіх замкаў (Мазыр, Рэчыца, Полацк, Віцебск, Радашковічы і інш.) прыблізна на сярэдзіне іх вышыні рабілі дадатковыя галерэі насценнага бою — т. зв. абламы, «подсябитье», «обланки», «бланкованье». Яны размяшчаліся на кансольных бэльках вакол В. мелі бакавыя парапеты з тоўстых дошак і былі разлічаны на стральбу з ручной зброі. Малыя вежы, што былі не вышэй за абарончыя сцены і прыбудоўваліся да іх звонку, мелі як бы 3 вонкавыя сцяны і адну агульную з гарадскім праслам. Яны, як правіла, ставіліся на даволі доўгіх адрэзках лініі абароны, адыгрывалі дапаможную ролю прамежкавых цэнтраў абароны. Сваім прысадзістым выглядам нагадвалі контрфорс, празваны ў народзе «бычком» ці «быком». Такія вежы вядомы па інвентарах Віцебска, Полацка, Невеля 16—17 ст. Акрамя абарончага прызначэння, вежы часам выконвалі функцыі патаемнага калодзежа (калодзежная вежа ў Навагрудку) або патаемнага выхаду («Падлазныя» вежы ў Шклове, «Патаемная» вежа ў Крычаўскім замку), які выводзіў да вады і даваў магчымасць рабіць раптоўныя вылазкі. У Чачэрску і Кобрыне адна з вежаў выкарыстоўвалася як баявая і як вятрак, дзе ў час аблогі размолвалі назапашанае збожжа. Дах вежы рабілі з гонты, дранкі, зрэдку абівалі бляхаю або накрывалі дахоўкаю. Так было ў Мірскім замку і мястэчку Мір, дзе ў 1680-я гады пасля вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 вежы ўмацаваннаў крылі гонтай, дашчанай дахоўкай, мураўленай «каралеўскай дахоўкай», зробленай у в. Карпава Лука, «хатняй дахоўкай» і «бляхай» у выглядзе медных і ацынкаваных лістоў. Як элемент гарадской фартыфікацыі вежы страцілі сваё значэнне ў пач. 19 ст. ў сувязі з хуткім развіццём артылерыі.

Надбрамная вежа Любчанскага замка. 16 ст. Навагрудскі р-н.

Камянецкая вежа. 13 ст.

Вежа Камайскага касцела. Пачатак 17 ст. Пастаўскі р-н.

*Літ.:* Всеобщая история архитектуры Г

6 2 изд. М, 1968, Ткачев М А Замки Белоруссии Мн, 1987, Чарняўская Т І Архітэктура Віцебска З гісторыі планіроўкі і забудовы горада Мн, 1980 *М А Ткачоў*

**ВЕЙНЯРО́ВІЧ** Іосіф Навумавіч [н. 15(28).11.1909, Мінск], беларускі кінааператар і рэжысер. Нар артыст Беларусі (1973) Скончыў Дзярж. ін-т кінематаграфіі ў Маскве (1934) З 1926 аператар кінахронікі, з 1946 рэжысер-аператар кінастудыі «Беларусьфільм». У Вял. Айч вайну аператар франтавых груп Цэнтр. студыі дакумент. фільмаў, здымаў франтавую і партыз хроніку (Дзярж. прэмія СССР 1943), якая ўвайшла ў фільмы «Наша Масква» (1941), «Дзень вайны», «У тыле ворага» (абодва 1942), «Народныя мсціўцы» (1943), «Вызваленне Савецкай Беларусі» (1944), выкарыстана ў кінаэпапеі «Вялікая Айчынная» (1979) Рэжысер-аператар многіх фільмаў, у т. л. «Песня роднага краю» (1961), «Дарога без прывалу» і «Балада пра маці» (абодва 1965), «Генерал Пушча» (1967, Дзярж. прэмія БССР 1968), «Балада аб мужнасці і любві» (1973), «Права на бессмяротнасць» (1976) і інш., рэжысер фільмаў «Пра маці можна расказваць бясконца», «Магілеў Дні і ночы мужнасці» (1975), «Неўміручы подзвіг Мінска» (1978), «Пяць гадоў і ўсе жыцце» (1980) і інш Для яго творчасці характэрна спалучэнне героіка-патрыятычнай тэмы з сучаснасцю.

*Літ* Вондарева Е Л В кадре и за кадром Мн, 1973 *Р З Ясінскі*

**ВЕЙСЕНГО́Ф** Генрык Уладзіслававіч (7 8 1859, маентак Пакрэўна Вількамірскага пав. Ковенскай губ., цяпер Рокішскі р-н Літвы — 1922), жывапісец, графік Выхадзец з беларускага шляхецкага роду ням. паходжання. Вучыўся ў рысавальнай школе В Герсана ў Варшаве (1874—78), Пецярб. акадэміі мастацтваў (1878—82), у Мюнхене (1889), Парыжы (1900). Амаль увесь час жыў у маентку Русаковічы Ігуменскага пав (цяпер Пухавіцкі р-н). Пісаў пераважна пейзажы Сярод твораў «Транспарт палонных» (1886), «Перавозка раненых» і «Беларускія магілкі Русаковічы» (1889), «Куток у Польным» (1891), «Беларускія паляўнічыя» і «Снег» (1894), «Світанак на возеры», «Паляўнічы з сабакам», «Прадчуванне», «Надвячорак», «Хмара», «Цішыня» (усе 1910-я гады)

*Літ* Дробаў Л Н. Беларускія мастакі XIX ст Мн, 1971 С 82—89 *Л Н Дробаў*

**ВЕКСІЛАЛО́ГІЯ** (лац. vexillum сцяг + + грэч. logos навука, веды), сцягазнаўства, дапаможная гіст. дысцыпліна, якая вывучае гісторыю ўзнікнення сцягоў і іх сімволікі Звязана з *геральдыкай*. Гл. таксама *Сцяг, Харугва*

**ВЕ́ЛЕР** Міхаіл Львовіч (Майсей Лейбавіч; 1857, г. Пінск — 1882), удзельнік рэвалюцыйна-народніцкага руху. Скончыў гімназію ў Мінску, вучыўся ў Кіеўскім ун-це. З пач. 1876 чл. Мінскага народніцкага гуртка М. Г. Рабіновіча-Чорнага (Эвенчык, Іофе, Гаркаві і інш.). Пры разгроме гуртка ў 1876 В. ўдалося ўтаіць свой удзел у ім. Летам 1877 кінуў вучобу ва універсітэце і «з мэтай прапаганды сацыялізму» арганізаваў у Мінску народніцкі гурток землявольніцкага кірунку, у які ўвайшлі уцалелыя пасля разгрому гуртка Рабіновіча-Чорнага і новыя члены (Вігдорчык, Рагалер, Гецаў, Параф'яновіч і інш.). З гуртком В. па пытаннях кантрабанднай транспарціроўкі нелегальнай л-ры і друкарскіх прылад меў зносіны адзін з кіраўнікоў расійскай арг-цыі народнікаў «Зямля і воля» А. І. Зундзялевіч. У снеж. 1878 пра рэв. дзейнасць В. стала вядома паліцыі, але яму ўдалося ўцячы за мяжу Жыў у Швейцарыі і Парыжы. З дапамогай рус. пісьменніка І С. Тургенева атрымаў дазвол вярнуцца ў Расію і 8.1. 1881 добраахвотна з'явіўся ў Мінскае губ. жандарскае ўпраўленне. За «самавольную адлучку» і паліт. нядобранадзейнасць быў пад публічным наглядам паліцыі. У 1882 звярнуўся да ўрада з просьбай дазволіць яму прадоўжыць вучобу ва універсітэце. Яго кантакты з уладамі рэзка адмоўна ацэнены ў колах рэвалюцыянераў. Скончыў жыцце самагубствам.

*Літ* Гурвич И Первые еврейские рабочие кружки // Былое 1907 № 6, Гецов И Типография «Черного Передела» (воспоминания наборщика) // Группа «Освобождение Труда» (Из архивов Г В Плеханова, В И Засулич и Л Г Дейча) М, 1924 *Сб* 1, Ильинский Л Тургенев и эмигранты (Письма И С Тургенева к М Т Лорис-Меликову) // Литературно-библиологический сборник Пг, 1918, Самбук С М Революционные народники Белоруссии (70-е — начало 80-х годов XIX в) Мн, 1972, Лосинский Н Б Революционно-народническое движение в Белоруссии, 1870—1884 гг Мн, 1983 *М Б Ласінскі*

**ВЕЛІКАСЕ́ЛЬСКІ МАНЕ́ТНЫ СКАРБ.** Знойдзены ў 1977 у в. Вялікае Сяло Верхнядзвінскага р-на. Складаўся з 321 сярэбранай і білоннай манеты паўгрош літоўскі 1492—1506 (1 экз.), 1513 (1 экз.), 1560 (2 экз.) ВКЛ, паўгрош польскі 1479—91 (1 экз.), 1492—99 (10 экз.), 1501—06 (4 экз ), 1507 (1 экз.), 1509—11 і 15.. (8 экз.) Польшчы; тры грошы 1583, 1586, 1591, 1593, 1594 (усе па 1 экз.), 1596 (3 экз.), 1597 (1 экз.), 1598—1600 (8 экз.), грош польскі 1581 (1 экз.), 1608 (2 экз.), грош літоўскі 1608 (1 экз.), 1609 (1 экз.), шэлег 1592 (1 экз.), 1598 і 1616 (4 экз.), шастак 1596 (1 экз.), солід 1592—1612 (190 экз.) Рэчы Паспалітай; дэнарый 1528, 1541, 1549, 15., 155., 1569, 157., 1585, 1593, 1596, 1601, 1602 (усе па 1 экз.) Венгрыі; дзенга (6 экз.) і капейка (3 экз.) 1533—47 Вял. кн. Маскоўскага; капейка 1547—84 (4 экз.), 1584—98 (6 экз.), 1598—1605 (11 экз.), 1605—06 (7 экз.), 1606—10 (4 экз ), 1610—12 (1 экз.) Расіі; грош 1529, 1531, 1541, 1542 (усе па 1 экз ) Прусіі; шылінг 1570, 1578, 1579, 1607 (усе па 1 экз.) Курляндыі; солід 1477—89 (1 экз.) Тэўтонскага ордэна; паўгрош 1524 і 1525 (3 экз.) г Свідніца; драйпелькер 1581 (1 экз.) архіепіскапства Міндэн; драйпелькер 1604 (1 экз ) графства Шаўмбург, шылінг 1608 (1 экз.) архіепіскапства Кельн; паўбатцэн (2 крэйцары) 1594 (1 экз.) графства Насаў; марыенгрошэн 1550 (1 экз.) г. Браўншвейг-Люнебург; марыенгрошэн сярэдзіны 1550-х гадоў (1 экз.) г. Нордхайм; 2 фальшывыя манеты венгерскі дэнарый Фердынанда І і рыжскі солід Зыгмунта III Вазы, расплюшчаны манетны кружок. Ухаваны ў канцы 1610-х гадоў. Скарб захоўваецца ў нумізматычным кабінеце БДУ *В С Касмылеў*

**ВЕЛІКАСТА́ХАЎСКАЕ ПАТРЫЯТЫ́ЧНАЕ ПАДПО́ЛЛЕ** ў Вялікую Айчынную вайну Дзейнічала з вер. 1941 да 15.4.1942 у в Вялікае Стахава Барысаўскага р-на пад кіраўніцтвам Барысаўскага падп гаркома-райкома КП(б)Б (да лютага 1942). Трымала сувязь з *Барысаўскім патрыятычным падполлем.* Аб'ядноўвала 25 чал. Кіраўнікі С Л Бочак, А. І. Валагжанін, В. П. Бальшакоў У канцы 1941 група Бочака аб'ядналася з падп. групай П. Ц Солдака. Падпольшчыкі запісвалі і распаўсюджвалі сярод насельніцтва зводкі Саўінфармбюро, здабывалі зброю, боепрыпасы, дакументы для ваеннаслужачых, знішчалі здраднікаў, зрывалі мерапрыемствы акупац. улад, падбіралі людзей і запасалі харчы для будучага партыз. атрада. У студз. 1942 мелі 2 куляметы, 2 аўтаматы, 6 вінтовак, 6 пісталетаў, 60 гранат і некалькі тысяч патронаў. У лютым Бочак, Валагжанін і У. А. Савіцкі падарвалі на чыгуначным перагоне ветцы Барысаў — Лядзішчы эшалон, знішчылі 5 вагонаў з ваен. маемасцю 25 сакавіка і летам 1942 фашысты схапілі і пасля катаванняў расстралялі 13 падпольшчыкаў. Бальшакоў разам з уцалелымі патрыетамі 15.4.1942 пайшоў у лес і ўзначаліў партыз. групу, на базе якой і дыверсійнай групы «Бывалыя» сфарміраваны партыз. атрад «Дзядзькі Колі». У в. Вялікае Стахава загінуўшым падпольшчыкам пастаўлены помнік.

*С К Грабоўскі*

**ВЕ́ЛЬБАРСКАЯ КУЛЬТУ́РА,** археалагічная культура плямен, якія з сярэдзіны 1 ст. н. э. насялялі тэр. паўн.-ўсх. Польшчы. Назву атрымала ад могільніка каля мяст. Вельбарк (цяпер Мальбарк-Вельбарк) у Ніжнім Павісленні. Мае 2 стадыі развіцця: вельбарска-любавідскую (1—2 ст. н. э.) і вельбарска-цэцэльскую (2—4 ст. н э.) На 2-й стадыі пачынаецца прасоўванне вельбарскіх плямен на ПдУ, у 2 ст. яны занялі тэр. на правабярэжжы Зах. Буга да р. Гарынь. Насельніцтва жыло на адкрытых селішчах, якія размяшчаліся па берагах рэк, у паглыбленых у мацярык або наземных 2-камерных жытлах глінабітна-каркаснай канструкцыі пл. ад 60 да 120 $м^2$ ( трапляюцца невял. пабудовы да 20 $м^2$). Вырабляла ляпныя прысадзістыя шыракагорлыя гаршкі з пурыстай паверхняй, а таксама міскі, кубкі, арнаментаваныя рэльефнымі геаметрычнымі ўзорамі. Нешматлікая ганчарная кераміка прадстаўлена гаршкамі, міскамі, збанамі, вазамі разнастайных форм. Пахавальныя абрады — трупа-

палажэнне і трупаспаленне на бескурганных могільніках. Рэшткі спаленых паза межамі могільніка нябожчыкаў разам з попелам ссыпалі ў ямкі глыбінёй да 1 м або змяшчалі ў урны. У пахаваннях выяўлены рэчы, часам папсаваныя агнём, набор пахавальнага інвентару складаўся найчасцей з глінянага гаршка, бронзавай фібулы і касцянога грэбеня. На могільніках трапляюцца ахвярныя ямкі, запоўненыя попелам, часам у іх знаходзяць камяні-валуны, абломкі глінянага посуду, косці жывёл. Некаторыя тыпы ляпных гаршкоў маюць аналагі ў *пшэворскай культуры*, а ганчарных — у *чарняхоўскай культуры*. На думку многіх даследчыкаў, у фарміраванні В. к. акрамя карэннага насельніцтва прынялі ўдзел усходнегерманскія плямёны готаў і гепідаў. На тэр. Беларусі вядомы толькі могільнікі В. к. з абрадам трупаспалення: *Брэсцкі бескурганны могільнік, Дружба* (Брэсцкі р-н), *Велямічы* (Столінскі р-н), Вялічкавічы (Камянецкі р-н) і інш.

*Літ.:* Кухаренко Ю. В. Могильник Брест-Тришин. М., 1980; Этнокультурная карта террнторнн Укранннской ССР в 1 тысячелетнн н. э. Киев, 1985. *В. С. Вяргей.*

**ВЕЛЯМІ́ЧЫ**, група бескурганных могільнікаў і селішчаў *зарубінецкай культуры* каля в. Велямічы Столінскага р-на.

Бескурганны могільнік-1. За 4 км на У ад вёскі. Даследаваў у 1963—66 Ю. У. Кухарэнка. Выяўлена 157 пахаванняў, з якіх 11 належаць да 3—4 ст. н. э., 10 — зруйнаваныя старажытнарус. курганы, астатнія — зарубінецкай культуры. Пахавальны абрад апошніх — трупаспаленне за межамі могільніка. Перапаленыя косці ссыпалі на дно круглых ці авальных ям або ў гліняныя урны. Пахавальны інвентар — грубаляпныя і глянцаваныя гаршкі (арнаментаваныя ўціскаsuccessfully на плечуках або краях венчыка, наляпнымі псеўдавушкамі, расчосамі і «жамчужнымі» ўцісканнямі), міскі, кубкі, стопкі, 77 бронзавых і жал. фібул, бронзавыя буйныя шпількі, арнаментаваныя трапецападобныя падвескі, кольцы.

Бескурганны могільнік-2. За 1,5 км на З ад могільніка-1. Выяўлена 116 пахаванняў зарубінецкай культуры. Даследавалі ў 1954, 1955 і 1957 Кухарэнка, у 1960—62 К. В. Каспарава. У большасці пахаванняў рэшткі крэмацыі ссыпаны на дно круглых і авальных ям, у адным — у глінянай урне; яма аднаго пахавання выкладзена абломкамі глінянага посуду (імітуе скрыневыя пахаванні паморскай культуры), 12 — кенатафы. Пахавальны інвентар аналагічны рэчам могільніка-1, за выключэннем пласцінiстых шпілек, глінянай трапецападобнай падвескі, паяснога кручка, жал. званочка з кручком і інш.

Селішча-1. На Пд ад могільніка-1. Культурны пласт 0,8 м. Даследаваў Кухарэнка. Выяўлены фрагменты ляпных гаршкоў зарубінецкай культуры, жал. шлакі, косці жывёл.

Бронзавая падвеска (1), бронзавыя (2—4, 8) і жалезная (7) фібулы, бронзавыя скроневае кольца (5) і пярсцёнак (6) з бескурганнага могільніка-2 Велямічы.

Селішча-2. За 500 м на ПнУ ад могільніка-2. Даследавалі ў 1953—57 Кухарэнка, у 1962 Каспарава. Культурны пласт 0,4—0,8 м. Выяўлены рэшткі 3 пабудоў і некалькі гасп. ям. Адна з пабудоў зрубная з рэшткамі глінабітнага агнішча. Знойдзены абломкі каменных зерняцёрак, фрагменты грубаляпнога і глянцаванага посуду, жал. нож, бронзавыя падвескі, косці жывёл.

Селішча-3. На У ад могільніка-2. Памер 500×200 м. У 1962 даследавала Каспарава. Культурны пласт 0,3—0,4 м. Выяўлены рэшткі грубаляпных і глянцаваных пасудзін.

*Літ.:* Кухаренко Ю. В. Памятннкн железного века на территории Полесья. М., 1961; Его ж. Зарубинецкая культура. М., 1964; Каспарова К. В. Зарубинецкнй могильннк Велемичи II // Археологнческий сборник Гос. Эрмнтажа. Л., 1972. Вып. 14.
*А. А. Егарэйчанка.*

**ВЕЛЯШКО́ВІЧЫ**, вёска, цэнтр сельсавета ў Лёзненскім р-не, за 14 км на Пн ад Лёзна, на шашы Лёзна — г. п. Янавічы. 492 жыхары, 198 двароў (1992). У 18 ст. В.— цэнтр буйнога маёнтка, які таксама наз. Варшава (ад назвы фальварка ў ваколіцах В.), у Віцебскім пав. Тэр. маёнтка падзялялася на Горжаўскае, Замшанскае і Пнёўскае лаўніцтвы, Паляніцкае войтаўства. У пач. 20 ст. В.— сяло, цэнтр Веляшковіцкай вол. Віцебскага пав., 2 царквы, царкоўнапрыходскае і дзярж. вучылішчы. З 15.2.1923 у Лёзненскай вол., з 20.8.1924 цэнтр сельсавета Лёзненскага р-на. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 да кастр. 1943 акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1970 296 жыхароў, 106 двароў. Цэнтр калгаса «Світанне». Сярэдняя школа, дзіцячы сад, бальніца, клуб, б-ка, аптэка, аддзяленне сувязі, 2 магазіны.
*В. Л. Насевіч.*

**ВЕ́НА** (лац. venum продаж), у стараж. славянскіх і некат. іншых народаў Еўропы выкуп, які рабіў жаніх за выкраданне нявесты, ці загадзя абумоўленая плата яе бацькам або сваякам. Памеры яго былі даволі значныя. На Русі, акрамя таго, бацькі нявесты плацілі В. грамадзе і феадалу. Упершыню ўпамінаецца ў «Аповесці мінулых гадоў» (12 ст.). З развіццём сямейных адносін ператваралася ў сімвалічны абрад, тэрмін «В.» атрымаў значэнне *пасагу*, які бацькі давалі за нявестай. З цягам часу В. было заканадаўча замацавана ў феад. праве. Статут ВКЛ 1588 разглядаў В. як умову для заключэння шлюбу і спосаб забеспячэння маёмасных інтарэсаў жонкі на выпадак яе ўдаўства. На Беларусі нормы гэтага права дзейнічалі да 1840.

**ВЕНЕ́ДЫ**, венеты, венды, вінды, самая стараж. зафіксаваная ў пісьмовых крыніцах назва *славян*. Сустракаюцца ў працах Плінія Старэйшага, Тацыта, Пталамея і інш. У 6 ст. н. э. гісторыкі гоцкі Іардан і візантыйскі Пракопій паведамлялі, што славяне ім вядомы пад назвамі склавіны і анты, а раней яны называліся венеды. Назва В. ўзыходзіць да індаеўрапейскай моўнай агульнасці. На думку польскага гісторыка і археолага В. Генсаля, народ пад назвай венеці ў 1400 да н. э. засяляў паўн. Францыю, у 1200 да н. э.— Адрыятычнае ўзбярэжжа паўн. Італіі. Каля 1000 гадоў да н. э. народ пад назвай енатоі зафіксаваны стараж. гісторыкамі ў Малой Азіі, у 6 ст. да н. э.— на берагах Чорнага мора і ў басейне ніжняй Віслы. Паводле звестак старажытнагрэчаскага гісторыка Скалака Карыяндскага, (в)энеты адрыятычныя — ілірыйскага паходжання або блізкія да кельтаў. У сярэдзіне 1-га тысячагоддзя да н. э. да прыходу кельтаў у паўн. Італію яны займалі тэр. Адрыятычнага ўзбярэжжа паміж рэкамі По і Ізонца да Альпаў. Паводле звестак старажытнагрэчаскага гісторыка Палібія (3—2 ст. да н. э.), які жыў у Рымскай імперыі і добра ведаў народы, што лакалізаваліся на тэр. сучаснай Італіі, В. ўжо ў канцы 2-га тысячагоддзя да н. э. насялялі землі на Пн ад Пічэны (Адрыятычнае ўзбярэжжа) Адзеннем і звычаямі яны не адрозніваліся ад кельтаў, але размаўлялі на асаблівай мове (захавалася 200 кароткіх запісаў іх мовы). Праз землі В. з Балтыйскага мора па Віслe і Карпацкім перавале ў Рымскую імперыю праходзіў Бурштынавы шлях. В. адыгрывалі важную ролю ў асваенні гэтага шляху, таму рымляне пашырылі назву В. на ўсе тыя народы, якія насялялі басейн Віслы. У Зах. Еўропе назва В. за славянамі захавалася ад Рымскай імперыі да позняга сярэднявечча (напр., Венедскія горы, Венедскі заліў у Балтыйскім моры, Паўночныя В. на берагах Балтыйскага мора і інш.). Нямецкі дыпламат З. Герберштэйн у 16 ст. адзначаў, што народ, які размаўляў на слав. мове, немцы за Эльбай называлі «вендамі» і «віндамі» (Wenden, Winden). Фіны і цяпер называюць рускіх В. (Venaja). Лічыцца, што назва ўсх.-слав. племя вяцічы звязана з В. Паводле высноў рус. гісторыка А. І. Неміроўскага, язычніцкае слав. свята Купалле мае свае карані ў Купавоне — вобразе чалавека-лебедзя, створаным рымскім паэтам 1 ст. да н. э Вергіліем. З прыведзеных звестак вынікае, што ў гіст. аспекце назва В. вельмі

складаная. Археалагічна немагчыма звязаць адпаведныя рэчавыя комплексы з прыведзенымі пісьмовымі звесткамі. На ўсіх названых тэрыторыях у шырокім храналагічным дыяпазоне, напр., у жал. веку, выдучаны розныя археал. культуры, якія тыпалагічна і храналагічна паміж сабою не звязаны. У польскай археал. навуцы з В. звычайна звязваюць пшэворскую культуру. З В. можа быць таксама звязана *зарубінецкая культура* і шэраг культур у Зах. Еўропе.

*Літ.:* Герберштейн С. Записки о Московии. М., 1988; Доватур А. И., Каллистов Д. П., Шишова И. А. Народы нашей страны в «Истории» Геродота. М., 1982; Калинина Т. М. Сведения о ранних ученых Арабского халифата. М., 1988; Крамер С. Н. История начинается в Шумере. М., 1991; Немировский А. И. Этруски: От мифа к истории. М., 1983; [Кариандский С.] Перипл обнтаемого моря // Вестн. древней истории. 1988. № 1; Чекмонас В. Введение в славянскую филологию. Вильнюс, 1988; Hensel W. I Veneti, i Wenedi ed i loro legami con le popolazioni del' Italia settentrionale e della Polonia // Archaeologia Polona. Wrocław etc., 1988(1989). [T.]27; Šimek E. Velká Germánia Klaudia Ptolemaia. Sv. 4. Brno, 1953. *Л. Д. Побаль.*

**ВЕНЗАВЕ́Ц,** Вязавец, вёска, цэнтр сельсавета Дзятлаўскага р-на. За 7 км на ПдЗ ад Дзятлава, 22 км ад чыг. ст. Наваельня, на шашы Дзятлава — Слонім. 538 жыхароў, 164 двары (1992).

У пісьмовых крыніцах згадваецца з 2-й пал. 15 ст. У 1-й чвэрці 16 ст. маёнтак В. належаў князю Фёдару Іванавічу Заслаўскаму. У 1566 — Гераніму Сіняўскаму, які атрымаў яго праз шлюб з дачкой Ф. Заслаўскага Ганнай. На карце Т. Макоўскага (1613) В. пазначаны як мястэчка. У 17 ст. маёнткам В. валодалі Сапегі і Палубенскія, у мястэчковым касцёле знаходзіўся цудатворны абраз Маці Боскай. У 18 ст. мястэчка Слонімскага пав. Навагрудскага ваяв., у складзе Дзятлаўскага графства Радзівілаў. У 1775 былі 53 двары, 2 млыны, карчма. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай з 1795 у складзе Расійскай імперыі, мястэчка Дзятлаўскай вол. Слонімскага пав. У 1885 90 двароў, 850 жыхароў, царква, школа, ладзіліся кірмашы. У 1904 718 жыхароў. У 1-ю сусв. вайну акупіраваны герм. войскам. У 1918—20 заняты польскім войскам, Чырв. Арміяй. З 1921 у складзе Польшчы, у Дзятлаўскай гміне Слонімскага пав. Навагрудскага ваяв. З 1939 у БССР, у Юравіцкім сельсавеце Дзятлаўскага р-на. У час Вял. Айч. вайны ў 1941—44 акупіраваны ням.-фаш. войскам. З 25.12.1962 у Слонімскім р-не, з 6.1.1965 у Дзятлаўскім р-не, з 12.11.1973 цэнтр сельсавета. У 1970 485 жыхароў, 145 двароў. Цэнтр калгаса «Чырвоны Кастрычнік». Лясніцтва, сярэдняя школа, Дом культуры, магазін. Помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. Помнік архітэктуры 19 ст.— Петрапаўлаўская царква. *В. У. Шаблюк.*

**ВЕ́НЗАЎШЧЫНА,** каменныя могільнікі (2) каля в. Вензаўшчына Шчучынскага р-на.

Могільнік-1 канца 10—12 ст. За 1 км на З ад вёскі і ад левага берага р. Скарбянка. Магілы купалападобна абкладзены камянямі ў 3—4 слаі. У галавах пахаванняў стаялі вял. камяні. Выявіў і даследаваў у 1889 Э. А. Вольтэр, у 1889—90, 1892 даследаваў В. А. Шукевіч. Раскапана 46 пахаванняў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне галавой на З (у адным — на У). У слоі гумусу пад кладкамі знойдзены фрагменты керамічнага посуду, у некаторых — цэлыя гаршкі. Магільныя ямы чатырохвугольныя, падоўжаныя, глыбінёй 0,7—1,6 м. Амаль кожны нябожчык з усіх бакоў абстаўлены дошкамі, верхняя дошка ў некаторых магілах прагаралая ці амаль спаленая. Сярод знаходак сякеры, коп'і, жал. нажы ў скураных вышытых чахлах, крэсівы з крамянямі, спражкі, тачыльныя брускі, шпоры, шматпацеркавыя скроневыя кольцы, бляшкі рознай формы ад галаўнога ўбору, рознакаляровыя шкляныя пацеркі, бранзалеты, пярсцёнкі. Некаторыя пахаванні без інвентару.

Могільнік-2 канца 10—15 ст. За 80 м на ПдЗ ад вёскі. Адкрыла і даследавала 133 пахаванні ў 1986—89 А. В. Квяткоўская. Пахавальныя абрады — трупаспаленне (1) і трупапалажэнне (132). Магілы абкладзены камянямі ў адзін слой. Зрэдку ў галавах пахаванняў стаялі вял. неапрацаваныя камяні. Магілы размешчаны групамі па 2—3 і больш (магчыма, сямейныя пахаванні). Адзначаны выпадкі пазнейшых пахаванняў на месцы папярэдніх. Магілы з трупаспаленнем (памер 2×1,5 м, глыбіня 1,4 м) арыентаваны ў напрамку Пн—Пд, запоўнены вуголлем. Знойдзены кавалкі ляпной керамікі чырв. і жоўтага колераў. Магільныя ямы з трупапалажэннем авальныя, звужаныя каля доннай часткі, глыбіня 0,75—1 м. Пад каменнымі кладкамі знойдзена вуголле, кавалкі ляпной і ганчарнай керамікі. У большасці пахаванняў выяўлены сляды дамавін. Сярод знаходак фібулы, нажы, тачыльныя брускі, крэсівы, жал. коп'і, сякеры; у больш позніх пахаваннях — грошы ВКЛ, грош пражскі 15 ст., шматпацеркавыя скроневыя кольцы, сярэбраныя, бронзавыя і медныя пярсцёнкі, гузікі, завушніцы. Паводле знаходак і тыпаў пахаванняў прасочваецца наяўнасць побач з балцкім насельніцтвам нязначнай часткі мазавецкага насельніцтва (кераміка, камяні ў запаўненні магільных ям).

*Літ.:* Гуревич Ф. Д. Древности Белорусского Понеманья. М.; Л., 1962; Szukiewicz W. Kurhany kamienne w powiecie Lidzkim (gub. Wileńska) // Światowit. Warszawa, 1899. T. 1; Materiały starożytne i wczesnośredniowieczne. T. 3. Wrocław, 1975. *А. У. Квяткоўская.*

**ВЕ́ПРАЎШЧЫНА,** вепраўшчызна, павепраўшчызна, грашовы падатак у ВКЛ, які ў 16—18 ст. спаганяўся з сялян за права карыстання ляснымі ўгоддзямі землеўласніка. Памер В. вызначаўся непасрэдна зямельным уласнікам. Так, прыгонныя маёнтка Ражанка Лідскага пав. ў 1599 плацілі В. 3 грошы з валокі, у фальварку Крупава Слонімскага пав. ў 1752 В. складала 1 злоты з цяглай валокі.

*Літ.:* Лойка П. А. Прыватнаўласніцкія сяляне Беларусі: Эвалюцыя феадальнай рэнты ў другой палове XVI—XVIII ст. Мн., 1991. С. 72—73.

**ВЕ́ПРЫН,** вёска ў Чэрыкаўскім р-не. Цэнтр сельсавета і калгаса «Кастрычнік». За 10 км на У ад Чэрыкава, 36 км ад чыг. ст. Верамейкі. 391 двор, 1048 ж. (1986).

Назва паходзіць ад слова «вепрь» — дзікі кабан, дзік. Вядома з сярэдзіны 16 ст. як велікакняжацкае ўладанне ў ВКЛ. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) адышла да Расійскай імперыі, належала стацкаму саветніку І. В. Галынскаму (49 двароў, 574 ж.). У 1877 памешчык меў тут 218, у 1882 — 421 дзес. зямлі. У 1880 — 141 двор, 810 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася кавальскім і кравецкім промысламі. У 1883 тут заснаваны смалакурна-шкіпінарны з-д (5 рабочых у 1890). Быў вадзяны млын. У пач. 20 ст. В. уваходзіў у Дубровіцкую вол. Чэрыкаўскага пав.; 202 двары, 1293 ж., царк.-прыходская школа. У снеж. 1905 сяляне разграмілі памешчыцкі маёнтак. Сав. ўлада ўстаноўлена ў студз. 1918. З 20.8.1924 цэнтр сельсавета ў Чэрыкаўскім р-не. У 1925 у сяле 172 двары, 971 ж., у былым маёнтку 26 двароў, 117 ж.; працавала 4-гадовая школа. У кастр. 1929 утвораны калгас «Чырвоны Кастрычнік», у 1930 таксама калгас «Экспарт» (пазней — імя Сталіна). Працавалі нафтавы (засн. ў 1927, 2 рабочыя) і ветраны млыны (1931, 1 рабочы), кузня. У вёсцы размяшчаўся дзіцячы дом. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў В. 402 двары, 1692 жыхары. У жн. 1941 акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. За час акупацыі гітлераўцы спалілі ў В. 256 дамоў, забілі 6 чалавек. На франтах і ў партыз. барацьбе ўдзельнічалі 86 вяскоўцаў, з іх 65 загінулі. У час акупацыі байцы 720-га партыз. атрада разграмілі ў вёсцы варожы апорны пункт. Вызвалена 30.9.1943 часцямі 50-й арміі. Пасля вайны адбудавана. З 16.9.1959 В. у Крычаўскім, з 25.12.1962 у Краснапольскім, з 6.1.1965 у Крычаўскім, з 30.7.1966 у Чэрыкаўскім р-нах. У 1970 — 418 двароў, 1353 жыхары. Бальніца, аддз. сувязі, 3 магазіны, дзіцячы сад-яслі, сярэдняя школа, Дом культуры. На паўд. ускраіне вёскі парк — помнік садова-паркавага мастацтва 2-й пал. 19 ст. У вёсцы брацкая магіла сав. воінаў і партызан, магіла невядомага сав. воіна, помнік землякам, што загінулі ў гады вайны. *А. Г. Шчарбатаў.*

**ВЕРАМЕ́ЙКІ,** вёска ў Чэрыкаўскім р-не. Цэнтр сельсавета і саўгаса «Ударнік». За 26 км на Пн ад Чэрыкава, чыг. ст. на лініі Магілёў — Крычаў. 300 двароў, 878 ж. (1986). Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. ў Мсціслаўскім пав. ВКЛ. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) адышла да Расійскай імперыі; 37 двароў, 260 ж.; у прыватнай

уласнасці Быкоўскіх. У 1880 — 30 двароў, 183 жыхары. Частка вяскоўцаў займалася бандарным промыслам. У пач. 20 ст. ўваходзіла ў Беліцкую вол. Чэрыкаўскага пав., 59 двароў, 325 жыхароў, царк.-прыходская школа. Сав. ўлада ўстаноўлена ў студз. 1918, адкрыты хата-чытальня, 4-гадовая школа. У 1926 — 71 двор, 343 жыхары. З 1927 існуе чыг. станцыя В. У 1931 арганізаваны калгас «Чырвоная зорка». У 1938 у вёсцы пачала працу Ударная МТС, што абслугоўвала 5 сельсаветаў. У 1930-я гады ў В. працавалі калгасная кузня, сярэдняя школа, аптэка, яслі, магазін. З 20.8.1924 цэнтр Верамейкаўскага сельсавета Чэрыкаўскага, з 5.12.1931 Чавускага, з 20.1. 1932 зноў Чэрыкаўскага р-на. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў В. 115 двароў, 415 жыхароў. У ліп. 1941 акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў жн. 1941 расстралялі старшыню сельсавета, дэп. Вярх. Савета БССР А. І. Федасеенку, сакратара партарганізацыі сельсавета П. П. Карнюшчанку і старшыню калгаса «Чырвоная зорка» І. А. Гузнякова. У час акупацыі ў вёсцы існавала падп. група пад кіраўніцтвам Я. Кавалёва. У 1941 патрыёты ўзарвалі вадакачку, праводзілі дыверсіі на чыгунцы, спалілі варожы склад. У маі 1943 партыз. полк «Трынаццаць» разграміў у В. фашысцкі гарнізон. У вер. 1943 гітлераўцы спалілі 96 дамоў. У баях з ворагам на франтах і ў партыз. атрадах удзельнічала 190 вяскоўцаў, з іх 57 загінулі. Вёска вызвалена 5.10.1943 воінамі 385-й Крычаўскай стралк. дывізіі (камандзір палк. М. Ф. Супруноў) 50-й арміі Бранскага фронту. З 16.9.1959 В. ў Крычаўскім, з 25.12.1962 у Чавускім, з 6.1.1965 у Крычаўскім, з 30.7.1966 у Чэрыкаўскім р-не. У 1970 у вёсцы 310 двароў, 828 ж.; сярэдняя школа, клуб, б-ка, бальніца, дзіцячы сад-яслі. Брацкая магіла сав. воінаў і партызан, якія загінулі ў барацьбе з ворагам, і помнік воінам-вызваліцелям. *А. Г. Шчарбатаў.*

**ВЕРАМЕ́Й-ПАБЯДЗІ́НСКІ** Мікалай Сцяпанавіч (сапр. В е р а м е й; 1898, в. Кавальцы Віленскай губ., цяпер Маладзечанскага р-на — 3.11.1939), удзельнік рэв. і нац.-вызв. руху ў Зах. Беларусі. Скончыў Невельскую настаўніцкую семінарыю, Пражскі электратэхнічны ін-т (1929). Працаваў настаўнікам у в. Кавальцы і мяст. Маркава Віленскай губ. У 1919 уступіў у Камуніст. рабочую партыю Польшчы (КПРП). З 1922 чл. Бел. рэв. арг-цыі (БРА), з 1923 чл. КПЗБ. У 1922 са згоды БРА выехаў на вучобу ў Чэхаславакію, дзе быў адным з арганізатараў марксісцкай групы сярод студэнцтва. Пасля сканчэння ін-та вярнуўся ў Зах. Беларусь і адразу ж мабілізаваны ў польскае войска. Супрацоўнічаў з ЦК КПЗБ і бел. рабоча-сялянскім пасольскім клубам «Змаганне». Пасля арышту ў 1930 польскімі ўладамі дэпутатаў сейма і кіраўнікоў «Змагання» В.-П. працягваў дзейнасць нелегальна: вёў падрыхтоўку да новых выбараў у сейм, друкаваў лістоўкі з заклікамі да бел. народа, інш. нелегальную л-ру, вёў работу па арганізацыі бел. школ у Зах. Беларусі. Улічваючы небяспеку становішча В.-П., ЦК КПЗБ адправіў яго ў СССР. Арганізатар і дырэктар энергетычнага ін-та ў Мінску (1930). З 1931 у польскай секцыі Камінтэрна ў Маскве. Вясной 1931 з канспіратыўных меркаванняў яму прысвоена прозвішча Пабядзінскі. 18.8. 1933 арыштаваны і высланы ў Арцёмаўск Хабараўскага краю, дзе і загінуў. Рэабілітаваны пасмяротна ў 1957. *Г. А. Каханоўскі.*

З. Верас.

В. Целеш. Экслібрыс З. Верас. 1982.

**ВЕ́РАС** Зоська (сапр. С і в і ц к а я Людвіка Антонаўна, па мужу В о й ц і к; 30.9.1892, мяст. Мяджыбаж Ляцічаўскага пав. Падольскай губ., цяпер Ляцічаўскі р-н Хмяльніцкай вобл., Украіна — 8.10.1991), беларуская пісьменніца, грамадска-культурная дзяячка. Скончыла прыватную жаночую гімназію ў Гродне (1912), агародніцка-пчалярскія курсы ў Варшаве (1914). У 1909—13 удзельніца *Гродзенскага гуртка беларускай моладзі*. Са жн. 1915 у Мінску. Працавала сакратаркай у *Мінскім аддзеле Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны*, Бел. нац. к-це, у Цэнтр. Радзе бел. арг-цый, Бел. сацыяліст. грамадзе. Як сакратарка ўдзельнічала ў з'ездах бел. нац. арг-цый (сак. 1917), беларусаў-вайскоўцаў Зах. фронту (кастр. 1917), Усебел. з'ездзе (снеж. 1917) у Мінску. Восенню 1918 вярнулася ў дзедаў фальварак Альхоўнікі на Сакольшчыне (Гродзенская губ.). З 1923 жыла ў Вільні. Працавала адміністраткай газет Бел. сялянска-работніцкай грамады. Друкавацца пачала ў 1907 у час. «Подснежник» (Кіеў). На бел. мове выступіла ў 1911 з абразкамі ў «Нашай ніве» пад псеўд. Мірко. Удзельнічала ў выданні альманаха («аднадзёнкі») «Колас беларускай нівы» (Гродна, 1913). У 1924 у Вільні выдала «Беларуска-польска-расейска-лацінскі батанічны слоўнік» (перавыд. ў 1992 у Мінску). Вынесла з віленскай турмы «Лукішкі» вершы М. Машары і выдала за свой кошт яго першы зб. «Малюнкі» (1928). З 1928 старшыня Бел. каап. пчалярскага т-ва «Пчала». Рэдагавала дзіцячыя час. «Заранка» (1927—31) і «Пралескі» (1934—35), с.-г. час. *«Беларуская борць»* (1934—38). Вершы і апавяданні змяшчала ў час. «Наш шлях» (1922), «Студэнцкая думка» (1924—25), «Заранка», «Пралескі», «Шлях моладзі» (1933—34), артыкулы па сельскай гаспадарцы, пчалярстве і агародніцтве — у час. «Беларуская борць», газ. «Беларуская ніва» (1926), «Народная справа» (1926), навук.-папулярныя — у час. «Шлях моладзі», па педагогіцы — у газ. «Жаноцкая справа» (1931) і інш., парады па агародніцтве, садоўніцтве, пчалярстве, на тэмы жаночай гаспадаркі — у Віленскіх бел. адрыўных календарах 1926—39. З укр. і рус. моў перакладала п'есы для дзіцячага тэатра. Аўтар успамінаў пра М. Багдановіча, У. Галубка, Г. Леўчыка, Ядвігіна Ш. і інш., пра грамадска-культ. і паліт. жыццё ў Мінску 1915—18, Вільні 1923—39. Збірала матэрыялы да біяграфіі выдатных дзеячаў Беларусі. Захаваліся біягр. нататкі пра Я. Багдановіча, Ю. Бібілу, А. Васілеўскага, А. Войціка, С. Грынкевіча, Ф. Грышкевіча, М. Забэйду-Суміцкага, А. Клімовіча, В. Лёсік, П. Ластаўку, М. Марцінчыка, С. Новіка-Пеюна, М. Пецюкевіча, А. Смоліч, А. Смоліча, У. Фальскага, Н. Шнаркевіч, Я. Шнаркевіча, Я. Шутовіча і інш. Вяла перапіску з пісьменнікамі, навукоўцамі, грамадскімі дзеячамі (больш за 6 тыс. пісем напісала толькі ў пасляваен. час). Архіў В. зберагаецца ў Цэнтр. дзярж. архіве-музеі л-ры і мастацтва Беларусі, музеі М. Багдановіча ў Мінску, Гудзевіцкім літ.-этнагр. музеі (Мастоўскі р-н).

*Тв.:* Каласкі: Вершы, апавяданні. Мн., 1985; Успаміны аб «Гарадзенскім гуртку беларускай моладзі» // Студэнцкая думка 1925. № 3(4); Гарадзенскі гурток беларускай моладзі // Маладосць. 1972. № 10, Тое ж // Беларускі каляндар, 1981. Беласток, 1981; Кароткі нарыс гісторыі пчалярства // Беларуская борць. 1935. № 4—5; Пяць месяцаў у Мінску: З жыцця Максіма Багдановіча // ЛіМ. 1967. 29 верас.; «Заранка»: З маіх успамінаў // Ніва (Беласток). 1968.

2 чэрв.; Тое ж // Полымя. 1968. № 4; Тое ж // Голас Радзімы. 1980. № 47; Мой дадатак. [Да біяграфіі Ядвігіна Ш.] // Ядвігін Ш. Выбр. творы. Мн., 1976; Сустрэчы з Гальяшом Леўчыкам // ЛіМ. 1977. 30 верас.; Гісторыя беларускага адрыўнога календара // Ніва (Беласток). 1976. 26 снеж.; Справа дзён, даўно мінулых: Да 60-годдзя трупы У. Галубка // Тэатр. Мінск. 1980. № 6; Віленскія кірмашы // Ніва (Беласток). 1985. 23 чэрв.; Старое Гродна // Краю мой — Нёман: Гродзеншчына літаратурная. Мн., 1986.

*Літ.:* Лойка А., Саламевіч І. Родная зямля — вечная любоў // ЛіМ. 1967. 29 верас.; Вітацы Н. Шлях паэта. Мн., 1975; Леўчык Г. Доля і хлеб. Мн., 1980; Нямковіч Н., Паддубская А. Першаму беларускаму — шэсцьдзесят: (Слова пра батанічны слоўнік Людвікі Войцік — Зоські Верас) // Пытанні лексікалогіі, фразеалогіі, стылістыкі. Мн., 1985; Лойка А. А. Зоська Верас // Лойка А. А. Гісторыя беларускай літаратуры: Дакастр. перыяд. 2 выд. Мн., 1989. Ч. 2; Пархута Я. Гаспадыня лясной хаткі // Пархута Я. Крыніца ёсць у родным краі...: Кн падарожжаў. Мн., 1992. *І. У. Саламевіч.*

**ВЕРАШЧА́ГІН** Павел Дзмітрыевіч (н. 20.6.1921, с. Неткачы Котаўскага р-на Валгаградскай вобл.), рускі і беларускі гісторык. Д-р гіст. навук (1983). Скончыў Ташкенцкі ун-т (1944). У 1945—83 выкладаў у ВНУ, у т. л. ў 1952—57 у Магілёўскім пед. ін-це, у 1972—79 у Гомельскім ун-це. Аўтар прац па гісторыі міграцый бел. сялянства ў 19 — пач. 20 ст. Адзін з аўтараў кнігі «Магілёў: Гіст. нарыс» (1959).

*Тв.:* Крестьянские переселения из Белоруссии: (Вторая половина XIX в.). Мн., 1978; К вопросу о роли географических и социальных факторов при выборе крестьянами-переселенцами мест поселения за Уралом в период капитализма (на примере Белоруссии) // Проблемы исторической географии России. М., 1982. Вып. 2.

**ВЕ́РБНІЦА,** Вербная нядзеля, апошняя нядзеля перад *Вялікаднем.* На В. паўсюдна асвячалі ў царкве галінкі вярбы, якім надаваліся магічныя ўласцівасці, таму яе доўга захоўвалі ў хаце, ёю выганялі на першы выпас жывёлу і г. д. Аздобленыя каляровымі засушанымі кветкамі, травамі, каласкамі галінкі вярбы («пальмы віленскія») імітавалі пальмы, з якімі іудзейскі народ сустракаў Хрыста пры яго ўездзе ў Іерусалім (гэта хрысціянскае свята было прымеркавана да В.). «Пальмамі віленскімі» ўпрыгожвалі дом, іх клалі на магілы блізкіх людзей.

**ВЕ́РНЕР** (Werner) Мар'яна (?—?), спявачка і драматычная актрыса 2-й пал. 18 ст. У 1783—85 актрыса прыдворнага тэатра Караля Станіслава Радзівіла ў Нясвіжы. У ліст. 1785 заключыла паўторны кантракт як педагог тэатральнай школы ў Нясвіжы, паводле якога рыхтавала дзяцей прыгонных для выступленняў у Камедыхаўзе. Відаць, працавала да 1791.

**ВЕРНІКО́ЎСКІ** Фёдар (Тодар) Міхайлавіч (1861, мяст. Дудзічы Ігуменскага пав., цяпер Пухавіцкі р-н — 1930-я гады), беларускі грамадскі, паліт. і дзярж. дзеяч. З сям'і псаломшчыка. Вучыўся ў мінскіх духоўных вучылішчы і семінарыі, у тэхналагічным ін-це і на курсах гаспадаркі, садоўніцтва і агародніцтва ў Пецярбургу. Працаваў у Сялянскім пазямельным банку, Зах. экспедыцыі па асушцы палескіх балот і арашэнні паўд. зямель, Мін-ве земляробства і дзярж. маёмасцей Расійскай імперыі. У 1906 камандзіраваны ў 1-ю Дзярж. думу ў якасці кансультанта камісіі па зямельным паляпшэнні гаспадаркі ў Расіі. Пасля выхаду ў адстаўку працаваў у мінскіх банках, быў абраны ў гар. думу. У снеж. 1917 — крас. 1918 скарбнік *Мінскага беларускага народнага прадстаўніцтва,* у крас. 1918 кааптаваны ў Раду *Беларускай Народнай Рэспублікі* (БНР). Па прапанове старшыні Нар. сакратарыята БНР Я. Варонкі меціўся на пасаду нар. сакратара па справах бежанцаў. Ва ўрадзе БНР на чале з Р. Скірмунтам дзярж. скарбнік (з чэрв. 1918), на чале з Я. Серадой нар. сакратар гандлю і прамысловасці, гаспадаркі, дзярж. кантралёр. Рэвізаваў бел. арг-цыі на Украіне. Ва ўрад БНР, які ўзначаліў А. Луцкевіч, не ўвайшоў, паколькі не падзяляў сацыяліст. погляды апошняга. Уваходзіў у склад эканам., фінансавай і кантрольнай камісіі Рады БНР. У снеж. 1918 разам з сябрамі Рады БНР і ўрада Луцкевіча пераехаў у Вільню, потым — у Гродна. Быў сябрам Бел. нац. к-та ў Гродне, уваходзіў у склад *Цэнтральнай беларускай рады Віленшчыны і Гродзеншчыны.* У 1919—20 старшыня бежанскага к-та і т-ва «Беларуская хата», распарадчык і нам. старшыні бел. культ.-асв. т-ва «Бацькаўшчына» ў Гродне, старшыня грамадскага сходу «Беларуская хата» і бежанскага к-та, скарбнік культ.-асв. т-ва «Заранка» і бел. дзіцячага прытулку, адміністратар Бел. тэатра ў Мінску. Пасля 1921 жыў у Вільні. У 1928—29 рэдактар газ. «Грамадзянін». Браў актыўны ўдзел у грамадскім руху па беларусізацыі праваслаўнай царквы ў Зах. Беларусі. У 1930 у Вільні на канферэнцыі прадстаўнікоў бел. праваслаўных арг-цый, на якой быў створаны Бел. праваслаўны к-т па беларусізацыі царквы, В. абраны яго старшынёй. Адзін з арганізатараў Бел. культурна-асветнага т-ва «Прасвета». *А. М. Сідарэвіч.*

**ВЕ́РХАСЬ** Уладзімір Паўлавіч (н. 2.7.1928, Жытомір), беларускі гісторык. Д-р гіст. навук (1979), праф. (1980). Скончыў Цэнтр. камсамольскую школу пры ЦК ВЛКСМ (1954), Маскоўскі дзярж. ун-т імя Ламаносава (1957), Акадэмію грамадскіх навук пры ЦК КПСС (1965). З 1949 на камсамольскай, пед. і парт. рабоце. З 1966 ст. выкладчык, заг. кафедры Гродзенскага с.-г. ін-та. Даследуе пытанні дзейнасці ваеннай арг-цыі пры ЦК РСДРП(б), гісторыі Кастр. рэв., Чырв. гвардыі ў 1917—18, падпольных парт. і камсамольскіх арг-цый Гродзеншчыны ў гады Вял. Айч. вайны, развіцця нар. гаспадаркі вобласці ў 1966—85. Адзін з укладальнікаў зборнікаў «У прынёманскіх лясах» (1975), «Світанак над Нёманам» (1982), гісторыка-дакумент. хронікі «Памяць: Гродзенскі раён» (1993).

*Тв.:* В борьбе закаленные. Мн., 1970; Это было в Скиделе. 3 изд. Мн., 1973 (разам з А. Л. Гарэлікам); Красная гвардия в Октябрьской революции. М., 1976.

**ВЕРХАЎЛЯ́НСКАЕ СВЯЦІ́ЛІШЧА,** помнік язычніцкага культу каля в. Верхаўляны Берастравіцкага р-на. За 150 км на ПдЗ ад вёскі. Мясцовая назва Гарадзішча. Пляцоўка круглая ў плане, дыяметрам каля 7 м, абкружана ровам глыбінёй 0,5—1,2 м, валам вышынёй 1,6—2,9 м. На ПнЗ у вале зроблены праход, злучаны з пляцоўкай земляной перамычкай. Выявіў у канцы 19 ст. Ф. В. Пакроўскі, абследаваў у 1973 Я. Г. Звяруга, даследаваў у 1986 Э. М. Зайкоўскі. Культурны пласт пляцоўкі 0,15—0,23 м. Выяўлены пласт вугалёў, абломкі ганчарнай керамікі і крамяні са слядамі апрацоўкі. Роў паміж пляцоўкай і валам з выбрукоўкай з камянёў выконваў рытуальныя функцыі: тут знаходзіліся «палаючыя ахвярнікі», куды кідалі мяса жывёл і рытуальна разбітыя пасудзіны. Сярод камянёў знойдзены косці і зубы жывёл, слабаапрацаваныя крамяні, вуголле, фрагменты ганчарнай керамікі. Пад каменнем на мацерыку выяўлены вуголле і абломкі керамікі 11—12 ст. Аналагічныя свяцілішчы адкрыты ў Паўн. Букавіне, на Смаленшчыне, у паморскіх славян.

*Літ.:* Бубенько Т. С., Зайковский Э. М., Поздняков В. С.

Верхаўлянскае свяцілішча. Рэканструкцыя Э. М. Зайкоўскага.

Исследования Белорусской экспедиции // Археологические открытия 1986 года. М., 1988. *Э. М. Зайкоўскі.*

**ВЕРХНЕДНЯПРО́ЎСКАЯ КУЛЬТУ́РА,** археалагічная культура неалітычных плямён, якія ў канцы 5-га — 3-м тысячагоддзі да н. э. насялялі тэр. ўсх. Беларусі ў басейне Дняпра і яго левабярэжных прытокаў. Аснову гаспадаркі складалі паляванне, рыбалоўства і збіральніцтва, у канцы існавання культуры пачалі развівацца прымітыўныя земляробства і жывёлагадоўля. Насельніцтва жыло на паселішчах, якія размяшчаліся на дзюнных узгорках поймы Дняпра, Сажа і іх прытокаў, на краях надпоймавых тэрас. Пл. паселішчаў вагалася ад 50 да 10 тыс. м². Жытлы былі драўляныя паўзямлянкавыя, заглыбленыя ў мацярык на 0,5 м, круглай або авальнай формы, пл. ад 8 да 12 м². На познім этапе В.к. жытлы размяшчалі найчасцей па адной лініі ўздоўж найб. высокай часткі тэрасы ці пясчанага астанца. У цэнтры жытлаў у невял. паглыбленнях у падлозе размяшчаліся агнішчы адкрытага тыпу і ямы-паграбы глыбінёй да 1 м. Каля жытлаў на адлегласці да 10 м выяўлены агнішчы і ямы-сховішчы (для захоўвання ежы, паліва і г. д.), а таксама месцы апрацоўкі крэменю і вырабу керамічнага посуду. На раннім этапе В.к. насельніцтва вырабляла таўстасценны вастрадонны посуд з прамымі сценкамі і прамым або ледзь адагнутым венчыкам з вял. колькасцю раслінных дамешкаў у гліне. Паверхня пасудзін часам упрыгожвалася гарызантальнымі радамі авальных ямкавых уціскання або адбіткаў буйнога грабеньчыка ці зусім не арнаментавалася. Пазней з'явіліся шыракагорлыя пасудзіны вышынёй да 0,4 м, дыяметрам да 0,3 м з вострым, радзей акруглым дном; яны былі падоўжаныя, пукатыя з адагнутымі венчыкамі, радзей — высокія прамасценныя ці акруглыя вышынёй да 0,1—0,15 м, дыяметрам да 0,15 м. У гліну дабаўлялі пясок, дробны кварц, часам рэшткі раслін. Унутраную і вонкавую паверхні часта загладжвалі зубчастым штампам. Характэрнай рысай В.к. з'яўляецца наяўнасць у некаторых пасудзін (магчыма, рытуальных) двухбаковай арнаментацыі, асабліва венчыкаў і днішчаў. Асн. элементамі арнаменту былі адбіткі грабеньчатага штампа, разнастайныя ямкавыя ўціскання (з акруглых, авальных, падоўжаных, трохвугольных, серпа-, ромбападобных і інш. ямак), лапчастыя наколы, нарэзкі, насечкі і правільныя ямкі з негатывамі на адвароце. З дапамогай усіх гэтых элементаў ствараліся дыяганальныя, гарызантальныя, шахматныя, зігзагападобныя, трохвугольныя кампазіцыі, якія з цягам часу ўскладняліся. На раннім этапе В.к. крамянёвы інвентар меў шмат архаічных рыс, што захаваліся з эпохі мезаліту. Позняму этапу характэрны ромбападобныя трохвугольныя наканечнікі стрэл і коп'яў, сякеры, цёслы, скрабкі на акруглых адшчэпах, вуглавыя і нуклеусападобныя разцы, нажы, вастры, свярдзёлкі; часам трапляюцца мікраліты. Помнікі В.к. доўгі час адносілі да лакальных варыянтаў *днепра-данецкай культуры* (гомельска-чарнігаўскі на 2-м, рагачоўскі на 3-м этапах развіцця). Пасля даследаванняў І. М. Цюрынай і А. Г. Калечыц вылучана самастойная В.к. Мела адчувальныя ўплывы *дзяснінскай культуры* і неалітычных культур Волга-Окскага рэгіёна.

Верхнедняпроўская культура: венчыкі пасудзін (1), форма пасудзін (2), донцы пасудзін (3).

Да арт. **Верхнядзвінск.** Герб Дрысы. 1781.

*Літ.*: Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 1. Мн., 1970; Калечиц Е. Г. Памятники каменного и бронзового веков Восточной Белоруссии. Мн., 1987. *А. Г. Калечыц.*

**ВЕ́РХНІ ЗЕ́МСКІ СУД,** саслоўны дваранскі судовы орган у Расійскай імперыі, у т. л. на Беларусі, у канцы 18 ст. Дзейнічаў на падставе «Устанаўлення для кіравання губерняў Усерасійскай імперыі» ад 7.11.1775. У Магілёўскай і Полацкай губ. утвораны ў 1778, Мінскай — у 1795. Заканадаўствам (Полн. собр. законов Рос. империи. Собр. 1-е. Т. 23. № 17494) прадугледжвалася стварэнне ў 1796 В.з.с. ў Віленскай і Слонімскай губ., але звесткі пра іх дзейнасць адсутнічаюць. У склад суда ў бел. губернях уваходзілі 1-ы і 2-і старшыні і 10 дваранскіх засядацеляў. Старшыні прызначаліся царом па прадстаўленні Сената. Дваранскія засядацелі выбіраліся на 3 гады дваранствам і зацвярджаліся губернатарамі. Даравальная грамата дваранству 1785 вызначыла ўзроставы і маёмасны цэнз пры выбранні засядацеляў: права выбіраць атрымалі дваране, якія дасягнулі 25-гадовага ўзросту і мелі нерухомую маёмасць, а выбранымі маглі быць тыя з іх, што мелі маёмасны даход не менш за 100 руб. і дасягнулі па службе обер-афіцэрскага чыну. В.з.с. складаўся з дэпартамента крымінальных (1-ы старшыня і 5 засядацеляў) і дэпартамента цывільных (2-і старшыня і 5 засядацеляў) спраў. В.з.с. разглядаў крымінальныя справы, за якія абвінавачаны мог быць прыгавораны да смяротнага пакарання, пазбаўлення гонару або публічнага пакарання, выносіў прыгавор і адпраўляў справу на рэвізію і канчатковае вынясенне прыгавору ў *палату крымінальнага суда.* Кампетэнцыя В.з.с. па цывільных справах выразна не была вызначана. Рэвізійнай інстанцыяй па цывільных справах з'яўлялася *палата цывільнага суда.* В.з.с. быў апеляцыйнай інстанцыяй для *ніжняга земскага суда,* дваранскай апекі і павятовага суда. Засядаў 3 разы на год, у пасяджэннях маглі прымаць удзел пракурор і страпчыя (памочнікі пракурора) па крымінальных і казённых справах. У 1797 В.з.с. скасаваны.

*Літ.:* Российское законодательство X—XX веков. Т. 5. Законодательство периода расцвета абсолютизма. М., 1987; Виленский Б. В. Подготовка судебной реформы 20 ноября 1864 года в России. Саратов, 1963. *А. У. Марыскін*

**ВЕРХНЯВО́ЛЖСКАЯ КУЛЬТУ́РА,** археалагічная культура ранненеалітычных плямён, якія ў сярэдзіне 5-га — апошняй чвэрці 4-га тысячагоддзя да н. э. насялялі тэр. вярхоўяў Волгі і Волга-Окскага міжрэчча (Цвярская, Іванаўская, Яраслаўская, Маскоўская вобл. і некаторыя раёны суседніх абласцей). Насельніцтва займалася пераважна рыбалоўствам, а таксама паляваннем і збіральніцтвам. Вырабляла крамянёвыя скрабкі, мікраскрабкі і канцавыя скрабкі на пласцінах і адшчэпах, скрэблы і скрабкападобныя прылады, наканечнікі стрэл на пласцінах, разцы, укладышавыя прылады з сячэннем пласцін, касцяныя наканечнікі стрэл, гарпуны, нажы, кінжалы, праколкі, шылы, сякеры. Гліняны посуд — разнавіднасць грабеньчата-накольчатай керамікі. У гліну дабаўлялі пясок і дробнатоўчаны камень, зрэдку раслінныя і ракавінныя дамешкі. Пасудзіны мелі шырокае адкрытае горла, прамыя сценкі, вострае ці закругленае донца, венчыкі звычайна завостраныя і скошаныя ўсярэдзіну пад

вострым вуглом да прамой сценкі (ёсць венчыкі з прамым арнаментаваным зрэзам). На паверхню керамікі часам наносіліся расчосы, а таксама тычкова-накольчаты, пракрэслены, разнастайны грабеньчаты (пункцірны, дробна-, сярэдне- і буйназубчаты) і ямкавы арнаменты. Частка посуду ўпрыгожана псеўдашнуравым арнаментам, адбіткамі адступаючай лапаткі ў выглядзе паралельных ліній. Шэрагам рыс кераміка В.к. блізкая да найб. ранняга посуду *Бабінавіцкага тыпу помнікаў*, помнікаў у вярхоўях Друці і на З Смаленшчыны. Падабенства найперш назіраецца ў складзе глінянага цеста (дабаўлялася сумесь пяску і жарствы); на кераміцы В. к. і бабінавіцкага тыпу сустракаецца псеўдашнуравы арнамент і ўзоры з кропкавых і кроплепадобных кампазіцый, арнамент з косых грабеньчатых адбіткаў паміж радамі ямак ці наколаў. Культура вылучана Дз. А. Крайновым і М. А. Хацінскім.

*Літ.*: Крайнов Д. А., Хотинский Н. А. Верхневолжская ранненеолитическая культура // Сов. археология. 1977. № 3. *Э. М. Зайкоўскі.*

**ВЕРХНЯДЗВІНСК** (да 25.12.1962 Дрыса, летапісная назва Дрысь, Дрнса, Дрнза), горад, цэнтр раёна, на правым беразе р. Зах. Дзвіна, пры ўпадзенні ў яе р. Дрыса. За 175 км ад Віцебска. Чыг. ст. на лініі Полацк — Даўгаўпілс. 8,1 тыс. ж. (1991). Упершыню г. Дрыса ўпамінаецца ў «Хронікі польскай, літоўскай, жамойцкай і ўсяе Русі» М. Стрыйкоўскага пад 1386, калі Дрысенскі замак у час міжусобнай вайны захапіў і падпаліў кн. Андрэй Полацкі. Паводле археал. даследаванняў, горад існаваў значна раней летапіснага ўпамінання. У 1503 упамінаецца ў пагадненні паміж вял. кн. ВКЛ Аляксандрам і вял. кн. маскоўскім Іванам III як асобная воласць, падпарадкаваная Полацку. У 1-й пал. 16 ст. гандл. цэнтр на Зах. Дзвіне, каралеўскае ўладанне. У 1547 тут утворана мытніца. Большасць насельніцтва займалася транзітным гандлем, аснову якога складала купля-продаж лесу. У час Лівонскай вайны 1558—83 Жыгімонтам II Аўгустам тут у 1563 адноўлены замак, у тым жа годзе горад захоплены войскамі Івана IV Грознага, у 1583 вызвалены С. Баторыем. У разбураным вайной горадзе паводле Полацкай рэвізіі 1586 было «дымов пять». У выніку 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Расійскай імперыі, з 1776 цэнтр *Дрысенскага павета.* У 1781 зацверджаны герб горада — «Пагоня» на залатым полі. У Айч. вайну 1812 каля горада знаходзіўся Дрысенскі лагер — умацаваная пазіцыя рус. арміі пад камандаваннем М. Б. Барклая дэ Толі. У 1797 было 1310 ж., у 1897 — 4238. У 1866 непадалёку ад Дрысы пракладзена чыгунка Полацк — Дзвінск. Чыг. ст. Дрыса была адным з гал. пунктаў вывазу лёну за мяжу (у 1899 з яе адпраўлена 23 тыс. пудоў ільновалакна). Вял. страты гораду наносілі паводкі, асабліва 1855, 1878. У 1905 тут 5750 ж.; 14 саматужных прадпрыемстваў, гар. і прыходскае вучылішчы, ніжэйшая рамесная школа, бальніца, аптэка. Сав. ўлада ўстаноўлена ў ліст. 1917. У лютым — ліст. 1918 акупіраваны германскімі войскамі, у вер.— кастр. 1920 — войскамі Польшчы. У сак. 1923 Дрысенскі пав. ліквідаваны. З 17.7.1924 цэнтр *Дрысенскага раёна*, з 3.7.1925 — мястэчка, з 27.9.1938 — горад. У 1939 — 2,7 тыс. жыхароў. У Вял. Айч. вайну 3.7.1941 акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі ў Дрысе 769 чал. У горадзе і раёне дзейнічалі падп. райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ. Вызвалены 12.7.1944 у ходзе Рэжыцка-Дзвінскай аперацыі войскамі 2-га Прыбалтыйскага фронту. У 1959 у горадзе 3,6 тыс., у 1970—11,9 тыс. жыхароў. Працуюць: ільнозавод, камбінат будматэрыялаў, масласырзавод, хлебазавод, ф-ка мастацкіх вырабаў, камбінат бытавога абслугоўвання, лесанарыхтоўчы пункт, 2 сярэднія, музычная школы, школа рабочай моладзі, школа-інтэрнат, 4 дашкольныя ўстановы, паліклініка, гасцініца, кінатэатр, Дом культуры, 2 б-кі, бальніца. Выдаецца газ. «Дзвінская праўда». Брацкая магіла пагранічнікаў, што загінулі ў вер. 1939, брацкая магіла сав. воінаў і магіла сав. воіна, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, мемарыяльны комплекс ахвярам фашызму, спаленым вёскам, воінам-вызваліцелям і землякам (за 1 км ад В.). Захаваліся помнікі архітэктуры 19 — пач. 20 ст.: жылы дом, Мікалаеўская царква, касцёл Раства Дзевы Марыі.

ВЕРХНЯДЗВІНСКІ РАЕН

*Літ.*: Полное географическое описание нашего отечества. Т. 9. Спб., 1905; Городские поселения в Российской империи. Т. 1. Виленская губерния. Спб., 1860; Сементовский А. М. Витебск и уездные города Витебской губернии. Спб., 1864; Брэжго Б. Замкі Віцебшчыны. Вільня, 1933.

*В. Я. Зайцава, С. Ф. Цярохін.*

**ВЕРХНЯДЗВІНСКІ РАЁН.** Размешчаны на ПнЗ Віцебскай вобл. Плошча 2,1 тыс. км$^2$, насельніцтва 32,6 тыс. (1992). Цэнтр — г. *Верхнядзвінск.* Большая ч. тэр. раёна знаходзіцца ў межах Полацкай нізіны, на ПнЗ заходзіць адгор'е Латгальскага ўзвышша — Асвейская града. Рэкі Зах. Дзвіна з прытокамі Сар'янка, Ужыца, Дрыса са Свольнай. Найб. азёры: Асвейскае, Лісна, Белае, Дрыса, Цятна, Ізубрыца. Пад лесам

29 % тэр. Праходзіць чыгунка Полацк — Даўгаўпілс, аўтамаб. дарогі на Полацк — Даўгаўпілс, Верхнядзвінск — Невель. Раён утвораны 17.7.1924 як *Дрысенскі раён* у Полацкай акрузе.

У раёне ў канцы 1920-х гадоў было каля 700 вёсак і мястэчак, больш за 200 хутароў. Прымусовая калектывізацыя суправаджалася ссяленнем хутароў, што прывяло пад 1939 да іх ліквідацыі. У сярэдзіне 1930-х гадоў прайшла таксама акцыя па ссяленні вёсак прымежнай з Польшчай паласы, у ходзе якой большасць сселеных была вывезена ў Комі АССР. У 1936—37 у раёне, як і ўсюды, праводзіліся паказальныя суды над «шкоднікамі» і «сабатажнікамі». У 1933 у раёне працавалі лесапільны, 2 цагельныя, 4 ільнозаводы, інкубатарная станцыя, прамысловая кааперацыя (4 арцелі), МТС. У 1934 пачалося буд-ва электрастанцыі. У гэты час у 153 калгасах раёна было 46 трактароў, больш за 200 сенакасілак, каля 100 сеялак, 42 малатарні. Да 1940 было калектывізавана на Дрысеншчыне 97 % сялянскіх гаспадарак, працавала 7 МТС (абслугоўвалі 203 калгасы). Развівалася мясцовая прам-сць — буд. матэрыялаў, паліўная, харчовая, апрацоўчая. На пач. 1930-х гадоў акрамя бел. і рус. школ дзейнічалі 4 яўрэйскія і 3 польска-бел. школы. У 1940 у 118 школах 12,3 тыс. вучняў, 517 настаўнікаў, 8 дашкольных устаноў наведвалі 280 дзяцей. Працавала 5 бальніц на 216 ложкаў, 26 амбулаторый і фельчарска-акушэрскіх пунктаў; 5 стацыянарных кінаўстановак.

У Вял. Айч. вайну ў першыя дні ліп. 1941 на ўчастку ад Краславы да Дрысы 112-я Уральская (Пермская) дывізія 22-й арміі Зах. фронту 10 дзён стрымлівала націск 4 дывізій праціўніка. Пасля акупацыі раёна ўжо ў жн. 1941 утворана *Сар'янскае патрыятычнае падполле*, 5 камсамольска-маладзёжных груп разгарнулі работу ў Борkавічах і навакольных вёсках. На тэр. раёна дзейнічалі падп. Дрысенскія РК КП(б)Б і ЛКСМБ, партыз. брыгады 1-я і 2-я Дрысенскія, імя Ракасоўскага, Асвейская імя Фрунзе, «За Савецкую Беларусь». Выдавалася падп. газ. «Патрыёт Радзімы». Частка раёна ўваходзіла ў *Расонска-Асвейскую партызанскую зону*. 4.8.1942 партызаны паспяхова правялі аперацыю па падрыву 110-метровага чыг. моста цераз р. Дрыса (гл. *Дрысенская аперацыя 1942)*. Супраць партызан гітлераўцы праводзілі карныя аперацыі. Буйнейшая з іх — «Зімовае чараўніцтва» (лют.— сак. 1943), у выніку якой былі спалены ўсе населеныя пункты Асвейскага і бліжэйшых да яго сельсаветаў Дрысенскага р-на, тысячы жыхароў спалены жывымі, расстраляны, утоплены ў р. Свольна, вывезены ў Германію. 43 вёскі, знішчаныя разам з жыхарамі ў час акупацыі, пасля вайны не адрадзіліся, в. Канчаны захопнікі палілі 3 разы. Усяго ў раёне было знішчана 6584 чал. Вызвалены ў ліп. 1944 часцямі 2-га Прыбалтыйскага фронту пры ўдзеле партызан у ходзе *Рэжыцка-Дзвінскай аперацыі 1944*.

25.12.1962 Дрыса перайменавана ў Верхнядзвінск, да В. р. далучаны Клясціцкі, Раўнапольскі, Сакалішчанскі, Юхнавіцкі сельсаветы скасаванага Расонскага р-на (6.1.1965 зноў у адноўленым Расонскім р-не). На 1.1.1992 у раёне 275 населеных пунктаў, у т. л. пас. *Асвея*, 12 сельсаветаў: Асвейскі, Бігосаўскі, Борkавіцкі, Валынецкі, Голубаўскі, Дзёрнавіцкі, Жоўнінскі, Каханавіцкі, Сар'янскі, Сенькаўскі, Чапаеўскі, Шайцераўскі; 17 калгасаў, 9 саўгасаў, 49 фермерскіх гаспадарак, якія спецыялізуюцца на льнаводстве, малочна-мясной жывёлагадоўлі, пашыраны пасевы збожжавых і бульбы. Дзейнічаюць прадпрыемствы буд. матэрыялаў, лёгкай, паліўнай, харч. прам-сці, лясгас. На тэр. раёна працуюць 10 сярэдніх, 10 няпоўных сярэдніх школ, 3 музычныя школы, 35 клубных, 30 дашкольных устаноў, 46 бібліятэк, 30 кінаўстановак, 5 бальніц, 4 амбулаторыі, 22 фельчарска-акушэрскія пункты. Выдаецца раённая газ. «Дзвінская праўда». Дзейнічаюць 2 царквы і 2 касцёлы, аднаўляюцца інш. ацалелыя храмы.

Найб. значныя археал. помнікі: Абрамава, Барсукі, Дзянісенкі, Замошша, Ігналіна, Лісна, Любасна, Сукалі, Урагава, Цясты, Ярмоліна і інш. У раёне брацкія магілы сав. воінаў і партызан (вёскі Борkавічы, Войтава, Вопытная, Дзёрнавічы, Жоўніна, Луначарскае, Першамайская, Сар'я і інш.), могілкі сав. воінаў, партызан і ахвяр фашызму (вёскі Дзянісенкі, Новы Строй, Селішча), магілы ахвяр фашызму (вёскі Абухава, Бандзелі, Бабы, Барадуліна, Борkавічы, Буды, Вопытная, Ворзава, Гарадзілавічы, Доўгае, Дубровы, Забораўцы, Задзежжа, Зябкі, Казакова, Каханавічы, Клімаўшчына, Красава, Кулакова, Лешня, Лінаўкі, Лісна, Луначарскае, Любасна, Марцінава, Мыленкі, Росіца, Рудня, Сенькава, Страдна, Чарнавокі, пас. Чапаеўскі, вёскі Юзафава, Ярмоліна і інш.). Насыпаны курганы памяці (в. Азернікі) і дружбы (в. Прошкі). Пастаўлены помнікі на месцы спаленых ням.-фаш. захопнікамі вёсак Абразеева, Аніськава, Барысава, Баравок, Баравыя, Бузава, Васілеўшчына, Верхняе Стунжава, Вянкелева, Гарадзішча, Гваздова, Еськава, Жалабоўшчына, Жарнасекі, Залешчына, Зянькі, Кабыльнікі, Калюты, Канстанцінава, Карзуны, Кашалёва, Краснава, Ладэлева, Латыгава, Ліцвякі, Ліцвякова, Мазалеўшчына, Маркава, Матукі, Межалы, Немцы, Ніжняе Стунжава, Новыя Маразы, Папаратнае, Плябанава, Пустэльнікі, Пучыніна, Пушалаты, Пушчавыя, Ракшын, Рубчыкі, Скрыпшчына, Сокалава, Суф'янікі, Царкоўна, Ціршава, Цыгельнікі, Шабалы, Ярахі; ахвярам фашызму (вёскі Бяляны, Вароны, Ворзава, Галькаўшчына, Кавалеўшчына, Казлоўшчына, Каменцы, Каралёва, Лявонішына, Матукі, Мукняціца, Сар'я, Сямёнава, Царкоўна); партызанам (каля вёсак Новы Строй, Страдна, Чарнавокі, раз'езд Беніслаўскага ў Валынецкім сельсавеце); падпольшчыкам (в. Прошкі); вучням і настаўнікам — членам падп. камсамольскай групы (в. Борkавічы); на месцы баёў 1942—44 (в. Дзёрнавічы). Захаваліся помнікі архітэктуры: царква (сярэдзіна 19 ст., в. Бароўка), касцёлы ў в. Сар'я (1852—57) і Траецкі ў в. Росіца (1907—12), сядзіба (2-я пал. 19 ст., каля в. Вопытная), чыг. вакзал (1924—26, в. Бігосава). Каля в. Сар'я захаваліся рэшткі парку — помніка садова-паркавага мастацтва 19 ст. Сярод ураджэнцаў раёна даследчык Сібіры І. Дз. Чэрскі, бел. фалькларыст, паэт, грамадскі дзеяч І. Я. Храпавіцкі, пісьменнік Т. Хадкевіч і інш. У в. Бандзелі правёў юнацкія гады бел. пісьменнік Э. Самуйлёнак.

*Літ.:* Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: Віцебская вобл. Мн., 1985.

*А. Ф. Бубала.*

**ВЕ́РХНЯЕ БЕРАЗІНО́**, гл. *Беразіно.*

**ВЕ́РХНЯЯ ТО́ШЧЫЦА**, вёска ў Быхаўскім р-не, на р. Тошчыца. Цэнтр сельсавета. За 32 км на Пд ад Быхава, 7 км ад чыг. ст. Тошчыца на лініі Быхаў — Жлобін. 90 двароў, 177 ж. (1990).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст., у 1777 вёска ў Рагачоўскім пав. У сярэдзіне 19 ст. уладальнікам маёнтка быў Т. М. *Грыневіч*, які ў час *паўстання 1863—64* арганізаваў тут і ўзначаліў атрад паўстанцаў. У 1880 у вёсцы 58 двароў, 369 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася вырабам прадметаў побыту з лыка і кары. У 1897 у Кісцянёўскай вол. Рагачоўскага пав.; 85 двароў, 635 жыхароў. Быў хлебазапасны магазін. Побач існаваў фальварак (2 двары, 11 жыхароў). У 1903 у вёсцы заснаваны лесапільны з-д (у 1913 было 30 рабочых, паравы рухавік магутнасцю 45 к. с.), у 1908 адкрыта школа. У 1909 — 95 двароў, 708 ж.; у фальварку 2 двары, 19 жыхароў. Сав. ўлада ўстаноўлена ў ліст. 1917. З лютага да ліст. 1918 вёска акупіравана германскімі войскамі. Пасля вайны на базе дарэвалюцыйнай створана працоўная школа 1-й ступені імя К. Цэткін (56 вучняў у 1925). У 1925 у б. маёнтку дзейнічала садова-агародная гаспадарка, у вёсцы існавала т-ва (11 сямей) па перасяленні ў Амурскую вобл. У 1926 у вёсцы 180 двароў, 955 ж., у 1930-х гадах арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 да 24.2.1944 акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 16.7.1954 цэнтр Верхнятошчыцкага сельсавета, вёска ў складзе калгаса «Ленінскі шлях». У 1970 — 100 двароў, 325 ж.; пач. школа, клуб, б-ка, магазін, аддз. сувязі. Помнік землякам, якія загінулі на франтах і ў партыз. барацьбе ў гады Вял. Айч. вайны. *В. М. Удальцоў*

**ВЕРШАЛІ́НА**, с у к а в а т к а, а с т р о г а, стараж. цяглавая прылада для апрацоўкі глебы, найб. архаічны тып бараны. У беларусаў сустракалася да пач. 20 ст. Рабілі з елкі, сукі якой абсякалі на 40—60 см ад ствала і завастралі. За тонкі канец мацавалі пастронкі, у якія ўпрагалі каня ці вала. Выкарыстоўвалі В. ў ляднын (пасечным) земляробстве, была асн. земляробчай прыладай, якая сумяшчала ў сабе функцыі бараны і сахі. *В. С. Цітоў*

**«ВЕСНАВО́Е СВЯ́ТА»** («Fruhlingsfest»), кодавая назва карнай аперацыі ням-фаш захопнікаў у Вял. Айч. вайну супраць партызан і мясц. насельніцтва *Полацка Лепельскай партызанскай зоны* 17.4—5.5.1944. Праведзена сіламі 12 палкоў СС і паліцыі, часцей 6-й асобай авіяпалявой, 5 пяхотных, 201-й ахоўнай і запасной дывізій, асобага батальена СС Дырлевангера, 501-га танкавага палка, 2 палкоў брыгады здрадніка Камінскага — усяго каля 60 тыс. чал., 137 танкаў, 235 гармат, каля 70 самалетаў, 2 бронецягнікі. Кіравалі аперацыяй камандуючы 3-й танкавай арміяй ген.-палк. Рэйнгарт і ген. камісар ген. акругі «Беларусь» групенфюрэр войск СС і ген.-лейт. паліцыі Готберг.

У блакіраваным ням.-фаш. войскамі раене дзейнічалі 15 партыз. брыгад, 1 партыз. полк, больш за 17 тыс. чал., на ўзбраенні якіх былі 9344 вінтоўкі, 1544 аўтаматы, 721 кулямет, 151 процітанкавае ружжо, 143 мінаметы, 21 гармата. Для кіраўніцтва і каардынацыі баявых дзеянняў брыгад была створана аператыўная група ЦК КП(б)Б і БШПР на чале з У. Е. *Лабанком*. Гітлераўцы планавалі прыціснуць партызан да чыгункі Маладзечна — Полацк, уздоўж якой сканцэнтравалі свае войскі з 2 бронецягнікамі. Гал. ўдар наносіўся на паўд. участку абароны, дзе наступалі часці 2 дывізій і 2 палкоў. Вялікую дапамогу партызанам аказвалі БШПР і ваен. савет 1-га Прыбалтыйскага фронту. Авіяцыя фронту зрабіла 354 вылеты, нанесла бомбавыя ўдары па скопішчах праціўніка, пераправіла больш за 250 тон грузаў, вывезла каля 1500 параненых і хворых. Адначасова войскі пачалі наступленне на полацкім напрамку. Адцягваючы ўдары нанеслі брыгады Сенненска-Аршанскай і Барысаўска-Бягомльскай партыз. зон і партызаны Вілейскай вобл. Нягледзячы на стойкасць партызан, да канца крас. гітлераўцам удалося звузіць кальцо акружэння да 20 км вакол Ушачаў. Але ўсягнуць сваіх мэт акупанты не змаглі: у ноч на 5 мая блакада ням.-фаш. войск была прарвана, усе брыгады выйшлі з акружэння і вывелі каля 15 тыс. чал. мясц. насельніцтва (гл. *Полацка-Лепельская бітва 1944*). Пад выглядам барацьбы з партызанамі гітлераўцы загубілі 7011 чал., спалілі шэраг весак, захапілі для вывазу ў Германію 11 тыс. чалавек.

**ВЕСНІК** Якаў Ілыч (21.8.1894, Мінск — 1937), удзельнік 1-й сусв. вайны, Лют. і Кастр. рэвалюцый, грамадз. вайны. У 1917 нач. гвардыі, камісар поштаў і тэлеграфа Выбаргскага р-на ў Петраградзе. З 1918 у Чырв. Арміі: чл. РВС арміі на Паўд., Паўд.-Зах. і Зах. франтах, пам. камандуючага войскамі Данской вобл. і Паўн.-Каўказскай ваен. акругі. Узнаг. ордэнам Чырв. Сцяга. З 1924 нач. Ваенна-будаўнічага ўпраўлення Чырв. Арміі. З 1925 на дыпламат. і гасп. рабоце. Беспадстаўна рэпрэсіраваны. Рэабілітаваны пасмяротна.

**«ВЕ́СНІК БЕЛАРУ́СКАГА ДЗЯРЖА́ЎНАГА УНІВЕРСІТЭ́ТА»**, навукова-тэарэтычны часопіс. Выдаецца з 1969 у 4 серыях: 1-я — матэматыка, фізіка, механіка, 2-я — хімія, біялогія, геаграфія, геалогія (перыядычнасць 4 нумары на год, на рус. мове), 3-я — сацыяльна-эканамічныя навукі, 4-я — гуманітарныя навукі (перыядычнасць 2 нумары на год, на бел. і рус. мовах). Публікуюцца артыкулы пра вынікі даследаванняў, супрацоўнікаў і аспірантаў БДУ, крытыка-бібліяграфічныя агляды і рэцэнзіі, інфармацыя пра навук. жыццё ф-таў БДУ, навук. канферэнцыі і дыскусіі, абарону канд. і доктарскіх дысертацый, навук. сувязі з вучонымі інш. краін.

Вокладка часопіса «Веснік Беларускага экзархата».

**«ВЕ́СНІК БЕЛАРУ́СКАГА ЭКЗАРХА́ТА»**, часопіс. Выдаецца Беларускай праваслаўнай царквой са студз. 1990 у Мінску на рус. і бел. мовах. Засн. на базе час. *«Минские епархиальные ведомости»*. Разлічаны на святароў, міран і свецкую аўдыторыю, што цікавіцца пытаннямі гісторыі і сучаснага стану праваслаўнай царквы на Беларусі, а таксама прадстаўнікоў інш. праваслаўных цэркваў і хрысціянскіх канфесій. У часопісе пераважаюць артыкулы гісторыка-архіўныя, аналітычныя багаслоўскага зместу, прысвечаныя найбольш значным падзеям у *Беларускім экзархаце*. Кожны нумар часопіса, пачынаючы з № 4, прысвечаны адной тэме: «Інтэлігенцыя і праваслаўе» (№ 4), «Шляхі і лёс народа Божага» (№ 5), «Праваслаўе на Белай Русі — людзі і храмы» (№ 6), «1000-годдзе праваслаўнай царквы на Беларусі» (№ 8), «Пакроў Прасвятой Багародзіцы над Белай Руссю» (№ 9); наведванню Беларусі Прадстаяцелем Рускай праваслаўнай царквы, Святейшым Патрыярхам маскоўскім і ўсяе Русі Алексіем II (№ 7). У тэкстах на бел. мове рэдакцыя захоўвае асаблівасці аўтарскай арфаграфіі і лексікі, што адлюстроўвае прынцыповую пазіцыю выдаўца, паводле якой развіццё царкоўна-багаслоўскай лексікі бел. мовы разглядаецца ў рэчышчы агульнага працэсу адраджэння бел. лінгвістыкі і ўлічвае ўсе яго кірункі. Паралельна на бел. і рус. мовах друкаваліся спецыяльныя царкоўныя тэксты дзеля іх параўнальнага лінгвістычнага аналізу. Часопіс асвятляе работу Бел. біблейскай камісіі над перакладам Святога Пісьма на бел. мову. Пры рэдакцыі часопіса заснаваны выдавецкі аддзел Бел. экзархата. У 1990 распачата выданне брашур для масавага чытача ў серыі «Библиотека «Вестника Белорусского экзархата». Сярод публікацый па гісторыі Беларусі артыкулы С. Клімава «Каб не парвалася жывая ніць» (№ 3), Х. Крываноса «Менская Свята-Петра-Паўлаўская (Свята-Екацярынінская) царква» (№ 4) і «Заслаўская Спаса-Прэабражэнская царква» (№ 6), Крываноса і В. Зайцава «Менская царква Святой Роўнаапостальнай Марыі Магдаліны» (№ 5). Друкуе вершы духоўнага зместу сучасных паэтаў, у т. л. А. Зніча (А. Бембеля) і Г. Тварановіч (№ 4, 5).

*А. А. Петрашкевіч.*

**«ВЕ́СТКІ З СССР»**, газета, орган ЦК КПЗБ. Выдавалася ў студз. 1933—студз. 1936 у Мінску на бел. мове раз у 2 месяцы. Першы нумар выйшаў у Зах. Беларусі. Нелегальна перапраўлялася ў Зах. Беларусь. Ставіла сабе гал. мэтай прапаганду «ўсіх старонак жыцця людзей у СССР і БССР». Большасць матэрыялаў газеты прысвечаны калектывізацыі, жыццю калгаснікаў і рабочых саўгасаў. Пісала пра будаўніцтва прамысл. прадпрыемстваў, культ. устаноў, дзейнасць вышэйшай і сярэдняй школы, культурна-асв. устаноў у БССР. Крытыкавала зах.-бел. перыядычныя выданні, якія, на думку рэдакцыі, неаб'ектыўна асвятлялі падзеі ў Сав. Беларусі. На старонках газеты апублікаваны артыкулы, якія паклёпнічалі на дзеячаў бел. навукі і культуры, т. зв. «нацдэмаў» (арт. «Вораг выкрыт і разгромлен», 1934, № 7, і інш.). Перадрукоўвала матэрыялы з перыядычных выданняў БССР і СССР. Выйшла 17 нумароў.

*П. І. Зялінскі.*

**«ВЕ́СТКІ ЧАСО́ВАГА РАБО́ЧА-СЯЛЯ́НСКАГА САВЕ́ЦКАГА ЎРА́ДУ БЕЛАРУ́СІ»**, газета, орган *Часовага рабоча-сялянскага савецкага ўрада Беларусі*. Выдавалася ў студз. 1919 у Мінску на бел., рус., яўрэйскай (ідыш) і польскай мовах. Рэдактар А. М. Антанікоўскі. У № 1 ад 19.1.1919 надрукаваны «Маніфест Часовага рабоча-сялянскага савецкага ўраду Беларусі» аб абвяшчэнні БССР, «Спісак членаў Часовага рабоча-сялянскага ўраду Беларускай Савецкай Рэспублікі», пастанова № 1 урада аб скасаванні Абл. выканкома Зах. вобл. і фронту і Мінскага губ. рэўкома, аб пераходзе ўлады да Часовага ўрада і яго камісарыятаў; пастанова № 2 аб захаванні ў сіле ўсіх заканадаўчых актаў РСФСР, праведзеных у жыццё на тэр. Гродзенскай, Віцебскай, Мінскай, Магілеўскай і Смаленскай губ. да абвяшчэння БССР, і выданні новых законаў і распараджэнняў Часовым урадам; паведамлялася аб стварэнні пры Часовым урадзе міжведамаснай камісіі для ўрэгулявання жыл-

лёвых пытанняў і фінансавай камісіі, скліканні 1-га Усебел. з'езда Саветаў. Вядомы таксама № 4/5. *У. У. Грамовіч.*

**«ВЕ́СТНИК ЕВРО́ПЫ»**, рускі літаратурны і навук.-палітычны часопіс. Выдаваўся ў 1802—30 у Маскве 2 разы ў месяц. Заснавальнік і першы рэдактар М. М. Карамзін. Першы рускі часопіс, які асвятляў пытанні ўнутр. і знешняй палітыкі імперыі, гісторыю і культ. жыццё замежных краін. У 1814 у «В. Е.» дэбютавалі А. С. Пушкін і А. С. Грыбаедаў, які даслаў нататкі з Беларусі «Ліст з Брэст-Літоўска да выдаўца» (ч. 76) і «Аб кавалерыйскіх рэзервах» (ч. 78). У 1815—30 (рэдактар М. Т. Качаноўскі) значнае месца ў часопісе займалі матэрыялы па гісторыі, этнаграфіі і фалькларыстыцы слав. народаў, друкаваліся працы З. Я. Даленгі-Хадакоўскага, К. Ф. Калайдовіча, М. П. Пагодзіна, І. М. Снегірова і інш. Сярод публікацый «Прамова польскаму каралю Станіславу Аўгусту ў абарону грэка-расійскай царквы...» Г. Каніскага (1804, ч. 16), «Урыўкі з дзённых запісаў апошняга польскага караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага» (1808, ч. 39), нататкі Ф. М. Глінкі пра Т. Касцюшку (1815, ч. 82), «Пра паходжанне законаў, якія мелі сілу ў Польшчы і ў Літве» Т. Чацкага (1824, ч. 135—137), «Беглы погляд на гісторыю Літвы» (1826, ч. 146), «Пасольскі двор і першая аўдыенцыя паслоў польска-літоўскіх у цара Фёдара Аляксеевіча» (1826, ч. 146, 150), лісты Сімяона Полацкага (1828, ч. 161), дакументы па гісторыі ВКЛ (1827, ч. 156; 1828, ч. 159, 162), а таксама артыкулы па бел. фалькларыстыцы і этнаграфіі: «Рэшткі славянскага байкаслоўя на Беларусі» М. Чарноўскай (1818, ч. 102), «Народныя святы, забавы, павер'і і прымхлівыя абрады жыхароў Беларусі» К. Фалютынскага (1828, ч. 158), «Святы, абрады, забабоны і прымхлівыя абрады простага народа ў Наваградскім павеце Літоўска-Гродзенскай губерні» А. Мухлінскага (1830, ч. 172). Шэраг матэрыялаў, прысвечаных Беларусі, Літве і Польшчы, даваўся ў перакладзе з «Dziennika Wileńskiego» («Віленскі дзённік»).

*Літ.:* Полуденский М. Указатель статей по русской истории, географии, статистике, русскому праву и библиографии, помещенных в «Вестнике Европы» 1802—1830. М., 1861. *С. А. Кузняева.*

**«ВЕ́СТНИК ЕВРО́ПЫ»**, рускі гісторыка-паліт. і літ. часопіс. Выдаваўся ў 1866—1918 у Пецярбургу, першыя два гады — 4 разы на год, з 1868 штомесячна. Выдавец-рэдактар — гісторык і журналіст М. М. Стасюлевіч (да 1909). Друкаваў навук. працы, публіцыстыку, літ. творы, паліт. агляды і замежную хроніку. Высокі ўзровень выдання вызначаўся супрацоўніцтвам у ім вядомых рус. вучоных і літаратараў (А. М. Астроўскі, А. М. Весялоўскі, С. А. Вянгераў, І. А. Ганчароў, М. І. Кастамараў, Дз. С. Меражкоўскі, І. І. Мечнікаў, М. М. Мінскі, А. М. Пыпін, С. М. Салаўёў, У. С. Салаўёў, М. Я. Салтыкоў-Шчадрын, І. М. Сечанаў, У. В. Стасаў, А. К. Талстой, І. С. Тургенеў, К. А. Ціміразеў і інш.). Значная ўвага аддавалася праблемам гіст. навукі, публікацыі гіст. даследаванняў, сярод якіх: «Апошнія гады Рэчы Паспалітай» (1869, № 2—12) і «Касцюшка і рэвалюцыя 1794 года» (1870, № 1—3) Кастамарава, «Князь М. М. Валконскі і яго данясенні з Польшчы» (1868, № 11—12) і «Напярэдадні першага падзелу Польшчы» (1870, № 7) М. Ф. Дубровіна, «Уз'яднанне уніі» М. Я. Марошкіна (1872, № 4—5, 7—9), «Зарыян Даленга-Хадакоўскі» (1886, № 11) і «Беларуская этнаграфія» (1887, № 4—7) Пыпіна, шэраг публікацый па гісторыі падзелаў Рэчы Паспалітай (1883, № 8, 12), паўстання 1863—64 на Беларусі (1883, № 1) і інш. Рэцэнзаваліся кнігі «Аб курганах у Літве і Заходняй Русі» К. Тышкевіча (1866, № 2), «Беларускі зборнік» Е. Раманава (1888, № 1), «Доктар Францыск Скарына. Яго пераклады, друкаваныя выданні і мова» П. У. Уладзімірава (1888, № 5), «Беларусы» П. Бародкіна (1902, № 6), «Чырвоная Русь» М. Багдановіча (1915, № 4). Часопіс выступаў за паслядоўнае рэфармаванне ўсіх бакоў жыцця імперыі, даваў іифармацыю і аналіз правядзення судовай, земскай, школьнай рэформ на месцах, у т. л. на Беларусі. Абараняў правы народаў Расіі на свабоднае культ. развіццё. А. Л. Пагодзін у арт. «Аб некаторых нацыянальных праблемах Расіі» (1909, № 6) і «Беларускія паэты» (1911, № 1) даў высокую ацэнку бел. нац. адраджэнню, яго мэтам і перспектывам, дасягненням бел. культуры. У апошняе дзесяцігоддзе існавання сімпатыі часопіса былі на баку паліт. праграм акцябрыстаў і кадэтаў.

*Літ.:* Арсеньев К. К. Взгляд на прошлое «Вестника Европы» (1866—1908) // Вестн. Европы. 1909. № 1; Каталог журнала «Вестник Европы» за двадцать пять лет, 1866—1890. Спб., 1891; Дополнительный каталог журнала «Вестник Европы» за истекшее пятилетие, 1891—1895 // Вестн. Европы. 1895. № 12; Тое ж: 1896—1900 // Тамсама. 1900. № 12; Тое ж: 1901—1905 // Тамсама. 1906. № 12; Указатель журнальной литературы / Сост. Н. А. Ульянов. Вып. 1. М., 1911. *С. А. Кузняева.*

Тытульны ліст часопіса «Вестник Западной России».

**«ВЕ́СТНИК ЗА́ПАДНОЙ РОССИ́И»**, штомесячны палітычны і гіст.-літаратурны часопіс. Выдаваўся ў 1862—64 у Кіеве пад назвай «Вестник Юго-Западной и Западной России» і ў 1864—71 у Вільні на рус. мове. Выдаўцы-рэдактары К. А. *Гаворскі* (1862—69), І. А. Эрэміч (1870—71). Меў на мэце процідзейнічаць польскаму і каталіцкаму ўплыву ў зах. губернях Расійскай імперыі. Выступаў з пазіцый вялікадзярж. шавінізму супраць дэмакр. ідэй, нац.-вызваленчага руху. Актыўна прапагандаваў ідэалогію *заходнерусізму*. Карыстаўся матэрыяльнай падтрымкай віленскага ген.-губернатара М. М. Мураўёва, ухваляў мерапрыемствы па задушэнні паўстання 1863—64, русіфікацыі Беларусі. Друкаваў архіўныя дакументы і матэрыялы, даследаванні па гісторыі, статыстыцы, этнаграфіі, краязнаўстве Беларусі, Літвы, Украіны, літ. творы. Кірунак часопіса абумовіў яго асаблівую цікавасць да царк. гісторыі і тэндэнцыйную падачу матэрыялаў. Гісторыі Беларусі прысвечана значная колькасць дакумент. публікацый, у т. л.: «Дакументы, якія адносяцца да гісторыі беларускай царквы» (1862/63), «Матэрыялы па гісторыі праваслаўя ў Заходняй Расіі» (1863/64—1870), «Матэрыялы для гісторыі брацтваў Заходняй Расіі» (1863/64), «Матэрыялы па гісторыі уніі» (1863/64), «Матэрыялы для гісторыі горада Віцебска» (1863/64), «Матэрыялы, якія адносяцца да гісторыі Беларусі» (1868), «Дакументы, якія датычаць Люблінскай уніі» (1870). Сярод апублікаваных крыніц «Прамова Мялешкі» (публ. М. Каяловіча, 1862/63), урыўкі з трактата М. Літвіна «Аб норавах татараў, літоўцаў і масквіцян» (1863/64), мемуары А. Вастокава «Старэчыя ўспаміны бачанага, чутага і чытанага аб падзеях у заходніх абласцях Расіі і ў Царстве Польскім з 1793 да цяперашняга часу» (1863/64) і інш. Пытанні гісторыі Беларусі распрацоўваліся ў працах К. Гаворскага «Іасафат Кунцэвіч, полацкі уніяцкі архіепіскап» (1862/63), «Аб увядзенні, распаўсюджанні і лёсе кальвінізму на Беларусі» (1863/64), «Гістарычныя звесткі аб Полацкім Сафійскім саборы» (1863/64), «Археалагічныя пошукі ў наваколлі Полацка» (1863/64), П. В. Кукальніка «Гістарычныя нататкі аб Літве» (1863/64), «Гістарычныя нататкі аб Паўночна-Заходнім краі з 1794 года» (1864/65). Беларусі прысвечаны таксама артыкулы «Фізічныя і маральныя элементы паўночна-заходніх губерняў Расіі» П. В. Бабро́ўскага (1864/65—

1865/66), «Мазырскія пісьмы» Р. І. Кулжынскага (1865/66), «Нарысы беларускага Палесся» І. Эрэміча (1867), шэраг гіст. і краязнаўчых нарысаў пра бел. гарады і мястэчкі. Частка дакумент. матэрыялаў часопіса склала выдадзены асобна «Зборнік дакументаў, якія высвятляюць адносіны лаціна-польскай прапаганды да рускай веры і народнасці» (вып. 1—2. Вільня, 1865—66).

*Літ.:* Цьвікевіч А. «Западно-руссизм». 2 выд. Мн., 1993. С. 17—103; Цікоцкі М. З гісторыі беларускай журналістыкі XIX стагоддзя. Мн., 1960. С. 83—85; Самбук С. М. Общественно-политическая мысль Белоруссии во второй половине XIX века (по материалам периодической печати). Мн., 1976. С. 27—29. *С. А. Кузняева.*

**«ВЕ́СТНИК КОМИТЕ́ТА ЗА́ПАДНОГО ФРО́НТА ВСЕРОССИ́ЙСКОГО ЗЕ́МСКОГО СОЮ́ЗА»**, штодзённая газета. Выдавалася з 1916 да 10(23).1.1918 у Мінску на рус. мове. Распаўсюджвалася сярод служачых мясц. органаў Усерасійскага земскага саюза. Узнімала праблемы забеспячэння франтавікоў харчаваннем, прадметамі штодзённага ўжытку, медыцынскай дапамогай. Рэдакцыя выступала за беспартыйнасць у працы па абслугоўванні фронту, процістаяла спробам ператварыць газету ў інструмент паліт. барацьбы (арт. «Ці патрэбна палітыка Земсаюзу ў бягучы момант». 1917, 28 кастр.). У сувязі з рэарганізацыяй к-та Земсаюза пасля Кастр. рэвалюцыі 1917 газета з 17(30). 11.1917 называлася «Известия комитета объединенных работников Земсоюза и Западного фронта», з 19.12.1917 (1.1.1918) — «Известия комитета объединенных работников и временного управления Земсоюза Западного фронта». У апошні склад рэдкалегіі ўваходзілі Я. Бейлін, Штэнберг, Толаў. Выданне спынена ў сувязі са скасаваннем к-та Земсаюзу. *М. Я. Сяменчык.*

**«ВЕ́СТНИК МИ́НСКОГО ГУБЕ́РНСКОГО ЗЕ́МСТВА»**, часопіс. Выдаваўся ў 1914—15 у Мінску на рускай мове. У 1914 выйшла 12 нумароў, у 1915 — 8. Адказны рэдактар Б. М. Самойленка. Асвятляў дзейнасць губернскіх і павятовых земстваў, пытанні сельскай гаспадаркі, меліярацыі, лясной справы, эканамічнага жыцця губерні. Змяшчаў хроніку, распараджэнні ўрада і Сената па земскіх справах. Змясціў кароткі агляд дзейнасці Мінскага земства за 3 гады (1914, № 3—4), матэрыялы пра 1-ы з'езд земскіх урачоў і прадстаўнікоў земстваў Мінскай губерні (1914, № 10), нарыс «Кароткая характарыстыка Палесся» (1914, № 12). *С. П. Самуэль.*

**«ВЕ́СТНИК МИ́НСКОГО ГУБЕРНСКОГО КОМИССА́РА»**, штодзённая газета, афіц. орган Мінскага губ. камісара Часовага ўрада. Выходзіла 9(22).3—19.12.1917(1.1.1918) у Мінску на рус. мове (замест «Минских губернских ведомостей»). З № 33 наз. «Вестник Минского губернского комиссариата». Рэдактары: І. М. Багданаў, з 31 сак. У. І. Самойла. Бясплатна распаўсюджвалася сярод работнікаў мясц. улад і падпісчыкаў папярэдняй газеты. Праводзіла палітыку Часовага ўрада, усе пастановы якога друкавала пад рубрыкай «Дзеянні ўрада». На яе старонках выступалі прадстаўнікі паліт. партый і арг-цый, у т. л. і беларускіх («Ад беларускага камітэта», «Дзень беларускага значка»). Усе падзеі і матэрыялы адлюстроўваліся ў агульнадэмакр. кірунку і спрыялі кансалідацыі грамадства. У той жа час нац. рух разглядаўся з велікарус. пазіцый. У паслякастрычніцкі перыяд праводзіла антыбальшавіцкую палітыку, асн. месца ў ёй займалі матэрыялы, прысвечаныя Устаноўчаму сходу. Пастановай СНК Зах. вобл. і фронту выхад газеты прыпынены з прычыны скасавання губ. камісарыята. Падпісчыкі да 1(13).1.1918 атрымлівалі новае выданне — *«Советская правда»*. *М. А. Сяменчык.*

**«ВЕ́СТНИК МОГИЛЁВСКОГО ЗЕ́МСТВА»**, часопіс. Выдаваўся ў 1914—17 у Магілёве на рускай мове. У 1914 выйшла 24 нумары, у 1915 — 19, у 1916 — 20, у 1917 — 4 нумары. Адказныя рэдактары В. К. Гартынскі, з № 1 за 1917 — І. М. Мусерскі. Часопіс меў на мэце служыць інтарэсам і патрэбам земскага і гарадскога самакіравання, гал. чынам «заходніх земстваў, якія ўтвораны згодна ўказа ад 14 сакавіка 1911». Асвятляў дзейнасць земскіх устаноў, пытанні сельскай гаспадаркі, меліярацыі, эканамічнага жыцця губерні, змяшчаў агляды дзейнасці земстваў іншых губерняў, пастановы ўрада па земскіх справах. Апублікаваў артыкул К. Замыслоўскай «Нарысы па гісторыі беларускай этнаграфіі» (1914, № 13). Сакратаром часопіса напярэдадні 1-й сусв. вайны быў І. М. Баранкевіч. *С. П. Самуэль.*

**«ВЕ́СТНИК НАРО́ДНОГО КОМИССАРИА́ТА ПРОСВЕЩЕ́НИЯ»**, часопіс, орган Наркамата асветы БССР. Выдаваўся з кастр. 1921 да ліст. 1922 у Мінску на рус. мове, меў асобны аддзел на бел. мове. У 1921 надрукаваны 2 нумары, у 1922 выходзіў штомесяц або раз у 2 месяцы здвоенымі нумарамі. Асвятляў пытанні ліквідацыі непісьменнасці, правядзення школьнай рэформы, развіцця асветы, вышэйшай школы, бел. культуры, гісторыі, л-ры, мовы. Надрукаваны артыкулы У. Пічэты «Навейшая гісторыя Беларусі ў замежнай гісторыка-палітычнай літаратуры» (1921, № 1), «Новыя работы па гісторыі Беларусі» (1921, № 2, 1922, № 1—4), «Мінскае таварыства гісторыі і старажытнасцей» (1921, № 2), «М. Багдановіч як гісторык беларускага адраджэння» (1922, № 5, 6), У. Ігнатоўскага «Наркамат асветы Беларусі і беларуская культура» (1921, № 1), «Беларускае культурна-нацыянальнае пытанне ў БССР» (1922, № 2—4), Я. Коласа «Цені прошлага» (1922, № 1—6), З. Бядулі «Батлейка» (1922, № 3—4) і «Беларускі тэатр» (1922, № 5—6), рэцэнзія Я. Карскага на працу М. Янчука «Нарысы па гісторыі беларускай літаратуры. Старадаўні перыяд» (1922, № 9—10). *У. У. Грамовіч.*

**«ВЕ́СТНИК РО́ДИНЫ»**, перыядычны лісток Мінскага падпольнага гаркома КП(б)Б у Вял. Айч. вайну. Выдаваўся ў студз.— лютым 1942 у Мінску на рус. мове ў 2 падп. друкарнях. З мэтай канспірацыі лісток выходзіў ад імя паліт-упраўлення Зах. фронту. Зберагліся 3 нумары: ад 18, 25 студз. і 1 лют. 1942.

**«ВЕ́СТНИК Ю́ГО-ЗА́ПАДНОЙ И ЗА́ПАДНОЙ РОССИ́И»**, назва час. *«Вестник Западной России»* ў 1862—64.

**«ВЕ́СЦІ АКАДЭ́МІІ НАВУ́К БЕЛАРУ́СІ»**, навуковы часопіс у 7 серыях. Выдаецца з 1940 у Мінску (у 1942—46 не выходзіў). Напачатку агульны часопіс для ўсіх аддзяленняў АН БССР, у 1956 падзелены на серыі: грамадскіх (з 1992 гуманітарных), біялагічных і фізіка-тэхн. навук, з 1963 выходзіць серыя с.-г. навук, з 1965 — фізіка-матэматычных, хімічных навук, з 1968 — фізіка-энергетычных навук. Серыя гуманітарных навук мае спец. раздзелы: «Гісторыя», «Філасофія і сацыялогія», «Мастацтвазнаўства, этнаграфія, фальклор», «Літаратуразнаўства», «Мовазнаўства», «Права», «Эканоміка». Часопіс асвятляе пытанні развіцця навукі, змяшчае ў форме артыкулаў і анатацый матэрыялы навук. даследаванняў і вынікі работ ін-таў АН Беларусі, навукова-даследчых ін-таў і ВНУ рэспублікі, а таксама рэцэнзіі, хронікі, юбілейныя артыкулы пра вядучых вучоных рэспублікі, інфармацыю пра навук. жыццё АН Беларусі. Серыі гуманітарных, біялагічных і с.-г. навук друкуюцца на бел. мове, іншыя серыі на бел. і рус. мовах. *М. Н. Крыўко.*

**ВЕ́ТАЧКА**, курганныя могільнікі на ПнУ ад в. Ветачка Рагачоўскага р-на.

Могільнік-1 *радзімічаў* (10—12 ст.). За 1 км ад вёскі, каля дарогі на Гарадзец. 47 насыпаў дыям. 5—25 м, выш. 1,5 м (10 выш. 1,5—5 м). Вядомы з 1873. Даследавалі ў 1963—65 Г. Ф. Салаўёва, у 1983—84 А. М. Плавінскі і В. Н. Рабцэвіч. Пахавальны абрад: трупапалажэнне на гарызонце ў межах рытуальнага вогнішча галавой на З, некаторыя на ПдЗ, У і ПнУ; трупаспаленне (раннія курганы) за межамі пахавання. Пахавальны інвентар: нажы, сярпы, прасліцы, упрыгожанні (пярсцёнкападобныя несамкнёныя і сяміпрамянёвыя скроневыя кольцы, сердалікавыя і шкляныя пацеркі, каралі з пацерак і бісеру, бронзавая шыйная грыўня, бранзалеты, пярсцёнкі, фібула, язычковая і петлепадобныя падвескі, лунніцы, крыжыкі, рэшткі галаўнога вянца), часткі паяснога набору, касцяныя тронкі нажа, кераміка гнёздаўскага тыпу.

Могільнік-2 *дрыгавічоў* (11—12 ст.). За 150 м ад вёскі, каля пясчанага кар'ера. 32 насыпы дыям. 5—16 м, выш. 0,5—4 м. Вядомы з 1873. Даследавалі ў 1963 Салаўёва, у 1983 Плавінскі і Рабцэвіч. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на попельнай падсыпцы галавой на З, некаторыя на У. Пахавальны інвентар: бронзавыя 3-пацер-

кавае скроневае кольца, пярсцёнкі, бразготкі, сярэбраныя буйназярністыя і шкляныя пацеркі, рэшткі ганчарнага посуду. Адзін парушаны курган без пахавання.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах // Изв. Археологической комиссии. Спб., 1903. Вып. 5; Соловьева Г. Ф. О восточной границе дреговичей // Краткие сообщения Ин-та археологии АН СССР. М., 1967. Вып. 110; Плавинский А. Н. Раскопки у д. Веточка // Археологические открытия 1984 г. М., 1986.

*А. М. Плавінскі, Г. Ф. Салаўева.*

**ВЕ́ТКА**, горад, цэнтр Веткаўскага р-на, прыстань на р. Сож. За 22 км на ПнУ ад Гомеля. Аўтадарогамі звязана з Гомелем, Добрушам, Чачэрскам. Паводле адной з гіпотэз, В. названа па аднайменным востраве, утвораным р. Сож і невял. затокай. Каля 9 тыс. ж. (1992).

Заснавана ў 1685 (паводле інш. звестак у 1682) *старaверамі* на землях мазырскага ваяводы Халецкага паблізу мяст. *Хальч*. Як сведчыць мясц. летапіс, паселішча заклалі маскоўскі «поп царквы Усіх Святых, што на Кулішках» Кузьма ды Стафан з Бялёва з 12 сем'ямі. Перасяленцы атрымалі каралеўскую грамату, якая гарантавала ім рэліг. незалежнасць і некаторыя падатковыя льготы. Такія ўмовы прыцягвалі новых мігрантаў з Масквы, Калугі, Яраслаўля, Бялёва, Бранска, Арла, Кастрамы, Курска, Вязьмы, Пуціўля, Ноўгарада, Юр'ева-Польскага. За некалькі гадоў В. стала буйным рэлігійным і эканам. цэнтрам расколу. У 1695 тут пабудавана Пакроўская царква, пазней — Пакроўскі манастыр. У пач. 18 ст. В.— буйное пасяленне гар. тыпу з самакіраваннем, шырокімі гандл. сувязямі, акружанае шматлікімі слабодамі, манастырамі і скітамі. Манастыры і скіты з'яўляліся цэнтрамі пашырэння пісьменства, развіцця мастацтва іканапісу, якое прыносіла значны даход. У 18 ст. ў В. сфарміраваліся своеасаблівасці іканапісу і афармлення рукапіснай кнігі. У 1733 В. як цэнтр расколу атрымала свайго епіскапа — Епіфанія, што асабліва садзейнічала росту яе аўтарытэту ў рус. расколе, росквіту веткаўскіх слабод і манастыроў. Тут пражывала каля 40 тыс. чал. Маскоўскі ўрад быў занепакоены ўзвышэннем В.: яна аказвала моцны ўплыў на прыхільнікаў старой веры ў рус. гарадах, што магло быць выкарыстана ў палітыцы ВКЛ; уцёкі стараавераў з рус. зямель за літ.-польскую мяжу аслаблялі гаспадарку Расіі; у В. знаходзілі прытулак непакорныя рус. уладам бунтаўшчыкі, тут аселі беглыя маскоўскія стральцы і інш. У 1732—33 былі выпушчаны царскія маніфесты са зваротам да стараавераў вярнуцца на радзіму. Веткаўцы не падпарадкаваліся царскім указам. У 1735 пры імператрыцы Ганне Іаанаўне адбылася першая «выганка» жыхароў В. з дапамогай войска. Дамы былі спалены, царква перавезена ў Свяцкую слабаду. З В. і навакольных слабод было вывезена каля 14 тыс. чал., астатнія разбегліся. За кароткі час В. была адбудавана, узведзена вял. капліца са званамі, пазней — царква. У 1750 — 20 тыс. ж. Паводле загаду Кацярыны II у 1764 адбылася другая «выганка», у ходзе якой В. зноў была спалена. Пасля гэтага яна страціла сваё значэнне як цэнтр арганізацыі расколу, аднак захавала ў стараверстве гіст. і культурны аўтарытэт. Веткаўцы па-ранейшаму падтрымлівалі сувязі з Масквой, Пецярбургам, Кіевам і інш. гарадамі, куды адыходзілі на промысел муляры, разьбяры, інш. рамеснікі. Сфарміравалася самабытная школа веткаўскай разьбы — своеасаблівае спалучэнне мясцовых бел. і рус. традыцый нар. архітэктурнага дэкору. Тутэйшых іканапісцаў старaверскія цэнтры запрашалі да пач. 20 ст. У 1772 тут хаваўся ад праследавання Емяльян Пугачоў. З 1772 В. ў складзе Расійскай імперыі, з 1784 мястэчка Беліцкага, з 1852 Гомельскага пав. Належала Станевічам. У 1880 у В. каля

Жаночыя ўпрыгожанні з могільніка-1 Ветачка.

Ветка. Фасад дома, аздоблены традыцыйнай веткаўскай разьбой.

6 тыс. ж., 11 мураваных, 994 драўляныя будынкі, 6 канатных, 2 гарбарныя з-ды, 6 ветраных млыноў, 3 крупадзёркі, 9 кузняў, дзе выраблялі пераважна якары (90 якараў за зіму), 4 мураваныя і 120 драўляных крам; 2 разы на год адбываліся кірмашы. Веткаўскія купцы гандлявалі соллю, мёдам, пянькой, лесам, найбольш багатыя з іх мелі параходы. Дзейнічалі праваслаўная царква, малітоўня стараверау, 6 яўрэйскіх малітоўных школ, пошта, прыёмны пакой для хворых (абслугоўваў фельчар), аптэка. Жыхары займаліся земляробствам, гандлем, саматужнымі промысламі: сталярным, бандарным, шавецкім, кравецкім і інш. У 1868 адкрыты жаночае, у 1874 мужчынскае нар. вучылішчы. У 1897 у В. 7,2 тыс. жыхароў. З 1904 дзейнічала с.-д. група, якая ўваходзіла ў Палескі к-т РСДРП. У студз. 1905 адбылася забастоўка рабочых канатнага з-да, якая перарасла ў паліт. дэманстрацыю. У 1-ю сусв. вайну ў В. быў расквартараваны 3-і запасны артдывізіён рус. арміі. У крас. 1917 створаны валасны савет салдацкіх дэпутатаў. У ліст. 1917 абвешчана сав. ўлада. У 1918 В. акупіравана германскімі войскамі. З 1919 у Гомельскім пав. РСФСР, з 1925 горад, з 1926 у складзе БССР (5,9 тыс. ж.), з 8.12.1926 цэнтр раёна. У 1924 пабудавана электрастанцыя, працавалі арцелі швейная, шавецкая, ткацка-трыкатажная і інш., якія аб'ядноўвалі каля 1 тыс. чал. У 1933 створана друкарня, выходзіла газ. «За бальшавіцкія тэмпы». Дзейнічалі бел., рус. і яўрэйская школы. У 1939 у В. 6 тыс. ж. У пачатку Вял. Айч. вайны ў В. сфарміраваны знішчальны батальён з 60 байцоў. У ваколіцах В., якую абаранялі часці 55-й стралк. дывізіі, разгарнуліся жорсткія баі, горад некалькі разоў пераходзіў з рук у рукі. З 18.8.1941 да 28.9.1943 В. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена воінамі 89-й, 159-й танкавых брыгад, 44-й мотастралк. брыгады 1-га танкавага корпуса і 17-й гв. кав. дывізіі 2-га гв. кав. корпуса Бранскага фронту ў ходзе *Бранскай аперацыі 1943*.

У горадзе працуюць ткацкая і бавоўнапрадзільная ф-кі, камбінат будматэрыялаў, з-д сценавых блокаў, перасоўныя механізаваныя калоны, хлебапякарня і маслазавод. Дзейнічаюць камбінат бытавога абслугоўвання, грамадскага харчавання, бальніца, б-ка, 2 сярэднія школы, *Веткаўскі дзяржаўны музей народнай творчасці*. В., як і Веткаўскі р-н, моцна пацярпела ў выніку *Чарнобыльскай катастрофы 1986*.

Брацкая магіла сав. воінаў, што загінулі ў баях за вызваленне горада і раёна, магіла ахвяр фашызму; помнікі сав. воінам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, у гонар першых механізатараў раёна. В.— радзіма рус. паэта Дз. М. Кавалёва.

*Літ.:* Мельников-Печерский П. И. Полн. собр. соч. Т. 13. Спб.; М, 1898; Смирнов П. С История русского раскола старообрядчества. Спб., 1895; Яго ж. Из истории раскола первой половины XVIII в.. По неизданным памятникам. Спб., 1908; Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: Гомельская вобл. Мн., 1985; Никольский Н. М. История русской церкви. Мн., 1990.

*С. І Лявонцьева.*

**ВЕ́ТКАЎСКІ ДЗЯРЖА́ЎНЫ МУЗЕ́Й НАРО́ДНАЙ ТВО́РЧАСЦІ.** Заснаваны ў г. Ветка ў 1978 на базе калекцыі Ф. Р. Шклярава, які стаў першым дырэктарам музея. Адкрыты ў 1987. Размешчаны ў б. купецкім асабняку 19 ст. (праект рэканструкцыі арх. Л. І. Асенняга; брама, веснічкі, ганак, дзверы, аздобленыя разьбою па матывах арнаментаваных заставак і буквіц веткаўскіх рукапісаў, выкананы Шкляравым і інш. супрацоўнікамі музея). У музеі 5,6 тыс. экспанатаў, у т. л. 3,1 тыс. асн. фонду (1992), якія характарызуюць нар. культуру і побыт, традыц. мастацтва і промыслы Веткаўшчыны. Гэта старадрукі 16—18 ст., рукапісы пач. 16 — пач. 20 ст., унікальная калекцыя прорысяў 17—19 ст., абразы 17 — пач. 20 ст., дзелавая і асабістая перапіска майстроў, рахункі, старадаўняя і сучасная разьба

Да арт. Ветка. Брама Веткаўскага дзяржаўнага музея народнай творчасці, аздобленая традыцыйнай веткаўскай разьбой.

Веткаўскі дзяржаўны музей народнай творчасці. Фрагмент экспазіцыі.

па дрэве, чаканка і гравіроўка па метале (абклады на абразах), ліццё, шыццё золатам, жэмчугам і бісерам, разнастайныя інструменты майстроў і рамеснікаў, калекцыя меднага посуду і самавараў, узоры мастацкага ткацтва, вышыўкі, нар. касцюм, творы жывапісу самадзейных мастакоў. Экспазіцыя мае раздзелы «Слабада», «Кірмаш», «Манастыр», «Рака», у якіх размешчаны тэматычна аб'яднаныя кампазіцыі з элементамі дыярамы: «Бакалейная крама», «Гандлёвы рад», «Карабейнік», «Кузня», «Майстэрня цесляра», «Бібліятэка», «Памяць зямлі» і інш. У «Бібліятэцы» і «Пераплётнай» экспануюцца старадрукі: «Евангелле вучыцельнае» І. Фёдарава і П. Мсціслаўца (Заблудаў, 1569), «Апостал» Фёдарава (Львоў, 1574), «Евангелле» Мсціслаўца (Вільня, 1575), кнігі В. Гарабурды (Вільня, друкарня Мамонічаў), А. і І. Нявежаў (Масква, друкарні Бурцава і Фофанава, 1-я пал. 17 ст.), «Евангелле» А. Радзішэўскага (Масква, 1606). Кнігі 18 ст. прадстаўлены пераважна выданнямі старавераў, у т. л. з *Куцеінскай друкарні*. Па запісах на кнігах (даравальных, купчых) складзена і экспануецца карта «Шлях кніг на Ветку». У калекцыі рукапісных кніг пач. 16 — пач. 20 ст. пераважна рукапісы крукавага нотнага пісьма, якія паводле спосабу афармлення адносяцца да гусліцкай, лексінскай (паморскай) і веткаўскай школ. Калекцыі іканапісу і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва ўключаюць работы мясц. майстроў рознага часу: Р. Рагаткіна (іканапіс), Р. Свяшчэннікава (чаканка), М. Смірновай (шыццё бісерам), П. Кастылёва (разьба па дрэве) і інш. Творы мастацкага ткацтва прадстаўлены старадаўнімі і сучаснымі ўзорамі ручнікоў, абрусаў і хустак з в. Неглюбка, пас. Рэпішча і інш. куткоў Веткаўшчыны, дзявочымі і жаночымі нар. строямі.

*С. І. Лявонцьева.*

«Пакровы». Абраз з экспазіцыі Веткаўскага дзяржаўнага музея народнай творчасці.

Веткаўскі дзяржаўны музей народнай творчасці. Рукапісы 16—19 ст.— узоры крукавога пісьма.

Веткаўскі дзяржаўны музей народнай творчасці. Адна з залаў экспазіцыі.

**ВЕ́ТКАЎСКІ РАЁН.** На У Гомельскай вобл. Утвораны 8.12.1926 у складзе *Гомельскай акругі*. Пл. 1,6 тыс. км$^2$. Цэнтр — г. *Ветка*. 139 населеных пунктаў, 13 сельсаветаў (1992): Вяліканямкоўскі, Данілавіцкі, Калінінскі, Маланямкоўскі, Навілаўскі, Неглюбскі, Прыснянскі, Радужскі, Свяцілавіцкі, Стаўбунскі, Хальчанскі, Шарсцінскі, Яноўскі. Большая частка раёна ў межах Гомельскага Палесся, астатняя — Чачэрская раўніна, ва ўсх. частцы раёна невял. марэнныя грады. Рака Сож (суднаходная) і яе прытокі Беседзь, Нёманка, Ліпа, Спонка. Пад лесам 29 % тэрыторыі. Аўтадарогі Гомель — Ветка — Свяцілавічы — Чачэрск, Ветка — Добруш.

У 1926 В. р. падзяляўся на 24 сельсаветы: Барбянскі, Барталамееўскі, Беседскі, Вылеўскі, Дзям'янкаўскі, Дубава-Ложскі, Калінінскі, Косіцкі, Кунтараўскі, Купрэеўскі, Навасёлкаўскі, Новазакружскі, Папсуеўскі, Прыснянскі, Радужскі, Рудня-Споніцкі, Сівінскі, Старазакружскі, Старасельскі, Тарасаўскі, Хальчанскі, Часта-Лужскі, Шарсцінскі, Юркавіцкі. На 1.1.1941 В. р. уключаў г. Ветка і 14 сельсаветаў. У Вял. Айч. вайну раён са снеж. 1941 да кастр. 1943 акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На яго тэр. дзейнічалі падп. райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ, партыз. брыгады 1-я Гомельская, Добрушская імя Сталіна, «Бальшавік». Раён вызвалены часцямі 89-й і 159-й танкавых брыгад, 44-й мотастралк. брыгады 1-га танкавага корпуса, 17-й гв. кав. дывізіі 2-га гв. корпуса Бранскага фронту ў ходзе *Бранскай аперацыі 1943* і войскамі Бел. фронту ў ходзе *Гомельска-Рэчыцкай аперацыі 1943*.

У гаспадарцы В. р. асн. месца займае с.-г. вытворчасць. Тут 5 калгасаў, 11 дзяржгасаў (1992). Прамысловасць (лёгкая і харчовая) сканцэнтравана ў Ветцы. На тэр. раёна 11 агульнаадук. школ, 21 дзіцячая дашкольная ўстанова, 1 гар. і 14 сельскіх дамоў культуры, 35 б-к, 1 гар. і 3 участковыя бальніцы, 1 паліклініка, 23 фельчарска-акушэрскія пункты. Выдаецца раённая газ. «Голас Веткаўшчыны». В. р. моцна пацярпеў у выніку *Чарнобыльскай катастрофы 1986*. На 1991 поўнасцю адселены 51 населены пункт.

У раёне помнікі археалогіі ў в. Глыбаўка, Жалезнікі, Навасёлкі, Новыя Грамыкі, Петраполле, Прысно, Рудня-Шлягіна, Хальч, Чамярня, Шарсцін, пас. Пралетарскі і інш. Брацкая магіла чырв. партызан у в. Свяцілавічы, брацкія магілы сав. воінаў і партызан, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, у вёсках Беседзь, Навасёлкі, Прысно, Радуга, Рэчкі, Свяцілавічы, Сівінка, Старое Сяло, Тарасаўка, Хальч, Шарсцін і інш.; магіла ахвяр фашызму ў вёсцы Казацкія Балсуны. Захаваўся помнік архітэктуры: сядзіба пач. 19 ст. ў в. Хальч.

*Літ.:* Никольский Н. М. История русской церкви. Мн., 1990; Збор помнікаў

гісторыі і культуры Беларусі: Гомельская вобл. Мн., 1985. *Я. І. Чаванькоў.*

**ВЕ́ТРАНКА,** вёска ў Трылесінскім сельсавеце Быхаўскага р-на. За 19 км на У ад Быхава, 19 км ад чыг. ст. Быхаў. 125 двароў, 254 ж. (1990). У 19 ст.— вёска ў Царкоўна-Асавецкай вол. Быхаўскага пав. Побач быў фальварак (1 двор, 25 ж., 1897). З 1866 тут дзейнічаў Александрыйскі шклозавод, на якім выраблялі аптэкарскае і лямпавае шкло, посуд, дэкаратыўныя ўпрыгожанні (77 рабочых у 1900, 86 — у 1913). У 1898 адкрыта школа. У 1899 на з-дзе адбылася забастоўка — першае арганізаванае выступленне рабочых на Быхаўшчыне. У 1909 у фальварку 82 жыхары. У ліст. 1918 шклозавод нацыяналізаваны (шклозавод імя Ільіча). У 1926 у вёсцы 49 двароў, 226 жыхароў. У 1927 пачаў дзейнічаць торфазавод «Ленінскі шлях». У 1927 шклозавод рэканструяваны пад выраб гасп. посуду; працавала 410 рабочых (1933), пры з-дзе існаваў дзіцячы сад. З 15.7.1935 да 17.11.1948 В.— рабочы пасёлак. Пасля рэканструкцыі ў 1937 электрастанцыі пасёлак атрымаў электраэнергію, тут пабудавана бальніца. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 па 26.6.1944 акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У жн. 1943 гітлераўцы спалілі пасёлак (260 двароў), загубілі 287 жыхароў. Пасля вызвалення адбудаваны. У пасляваенны час тут знаходзіўся дзіцячы дом. Цяпер вёска ў складзе калгаса «Перамога». Ёсць сярэдняя школа, сталовая. Помнікі землякам-партызанам, на месцы гібелі партызана К. Ц. Сіўцова (за 2 км ад вёскі). *В. М. Удальцоў.*

**ВЁТРЫНА,** гарадскі пасёлак у Полацкім р-не, на беразе воз. Сердава. За 20 км на ПдЗ ад Полацка, на шашы Віцебск — Вільнюс. Чыг. станцыя на лініі Полацк — Маладзечна. 2200 жыхароў (1993).

У сярэдзіне 16 ст. мястэчка ў складзе Полацкага ваяводства ВКЛ. У 1793 у складзе Расіі, мястэчка, цэнтр воласці Лепельскага пав. У ліст. 1917 устаноўлена сав. ўлада. З 31.1.1919 у складзе Полацкага пав., вёска. У 1924—31 і 1935—60 цэнтр Ветрынскага раёна. У Вял. Айч. вайну 11.7.1941 акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі ў раёне 1384 чал. Вызвалена 29.6.1944 войскамі 1-га Прыбалтыйскага фронту ў ходзе Полацкай аперацыі. З 21.1.1958 гар. пасёлак, з 20.1.1960 у Полацкім р-не. 3,5 тыс. жыхароў (1969). Участак Ушацкага філіяла Лепельскага вытв. дрэваапрацоўчага аб'яднання, філіял Віцебскай швейнай ф-кі, камбінат бытавога абслугоўвання. Сярэдняе ПТВ № 167 механізацыі сельскай гаспадаркі, сярэдняя школа і школа мастацтваў, міжшкольны навуч.-вытв. камбінат, дзіцячы сад, Дом культуры, 2 б-кі, бальніца. Брацкая магіла сав. воінаў і партызан, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. Каля В. гарадзішча Глінскі замак, за возерам Гарадзёнак — курганы часоў Стараж. Русі.

**ВЁТРЫНСКІ РАЁН.** Існаваў у БССР у 1924—31 і 1935—60. Утвораны 17.7.1924 у складзе Полацкай акругі (да 26.7.1930). Пл. раёна 913 км², нас. 34,9 тыс. чал. (1925). 821 населены пункт. Цэнтр раёна — г. п. *Ветрына.* 20.8.1924 падзелены на 12 сельсаветаў: Астроўшчынскі, Бабыніцкі, Вароніцкі, Ветрынскі, Гарадоцкі, Гомельскі, Заскаркаўскі, Ліцвінаўскі, Наўліцкі, Нацкі, Рудненскі (Руднянскі), Шпакоўшчынскі. 8.7.1931 раён скасаваны, яго тэр. далучана да Полацкага р-на. 12.2.1935 адноўлены, у яго склад увайшлі тыя ж 12 сельсаветаў і 2 новыя з Полацкага р-на: Семянецкі і Тураўлянскі. Пл. новага раёна 1,1 тыс. км². З 21.6.1935 у складзе Полацкай акр., з 20.2.1938 — Віцебскай вобл., з 20.9.1944 — Полацкай вобл. 16.7.1954 скасаваны Гарадоцкі, Наўліцкі і Руднянскі сельсаветы, Семянецкі сельсавет перайменаваны ў Заазерскі; 21.1.1958 скасаваны Ветрынскі сельсавет, 20.1.1960 В. р. скасаваны: Бабыніцкі і Варонінскі сельсаветы перададзены ў склад Ушацкага р-на; Астроўшчынскі, Гомельскі, Заазерскі, Заскаркаўскі, Ліцвінаўскі, Нацкі, Тураўлянскі, Шпакоўшчынскі сельсаветы і г. п. Ветрына перададзены ў склад Полацкага р-на. *М. І. Камінскі.*

ВЕТКАЎСКІ РАЁН

**ВЕТЭРА́НАЎ РЭСПУ́БЛІКІ БЕЛАРУ́СЬ АРГАНІЗА́ЦЫЯ,** грамадская арг-цыя, правапераемніца Бел. рэспубліканскай арг-цыі ветэранаў вайны, працы і Узбр. сіл, якая дзейнічала з 1987. Створана 29.10.1991 на рэсп. канферэнцыі ветэранаў. Дзейнічае ў адпаведнасці з прынятым статутам. Супрацоўнічае з прафсаюзамі, інш. грамадскімі арг-цыямі. Вышэйшы кіруючы орган — канферэнцыя, якая выбірае савет, што кіруе дзейнасцю арганізацыі паміж канферэнцыямі. Арганізацыя аб'ядноўвае 6 абл., 159 гар. і раённых, галіновыя і пярвічныя арг-цыі ветэранаў, усяго больш за 2 млн. чал. (1992). Усе структурныя падраздзяленні ўзначальваюць саветы ветэранаў. Ствараюцца групы ветэранаў па галінах дзейнасці, інтарэсах і праблемах ветэранскага руху. Асн. задачы — абарона правоў ветэранаў, паляпшэнне іх дабрабыту, жыллёвых умоў і ўсіх відаў абслугоўвання, ажыццяўленне кантролю за вы-

кананнем заканадаўства аб ільготах і пенсіённым забеспячэнні ветэранаў, прыцягненне іх да актыўнага ўдзелу ў грамадска-паліт., эканам. і культ. жыцці Рэспублікі Беларусь, умацаванне міру, клопат пра мемарыялы, помнікі баявой і працоўнай славы, месцы пахаванняў воінаў і партызан і інш. *А. Я. Андрэеў.*

**ВЕХАТНІЦА**, вёска ў Роскім пасялковым Савеце Ваўкавыскага р-на. За 15 км ад Ваўкавыска, 7 км ад чыг. ст. Рось. 206 жыхароў, 87 двароў (1990). Згадваецца з 1387, калі вял. князь ВКЛ Ягайла перадаў В. разам з некаторымі іншымі сваімі ўладаннямі касцёлу св. Станіслава і Уладзіслава ў Вільні. У 1411 уладанне вял. князя ВКЛ Вітаўта. У 16—19 ст. В. належала маёнтку Рось, якім у розныя часы валодалі Хадкевічы, Сапегі, Браніцкія, Патоцкія. Паводле інвентароў 1569 і 1621, зямельныя надзелы вёскі складаліся з 41 валокі. У 1761 у В. 30 двароў, у сялянскіх гаспадарках 39 валоў, 9 коней. З 1795 у Расійскай імперыі, у Ваўкавыскім пав. У 1905 былі 384 жыхары. У час 1-й сусв. вайны ў 1915—18 пад герм. акупацыяй, у 1918—20 пераходзіла з рук у рукі — была занята Чырв. Арміяй, польскім войскам. З 1921 у складзе Польшчы, у Ваўкавыскім пав. Беластоцкага ваяв. З 1939 у БССР, з 12.10.1940 у Роскім сельсавеце Ваўкавыскага р-на. У 1941—44 акупіравана ням.-фаш. войскамі. У складзе племзавода «Рось». Бібліятэка, Дом культуры, аддз. сувязі, магазін. *В. У. Шаблюк.*

**ВЕЦЕР** Васіль (?—26.2.1744), адзін з кіраўнікоў сялянскага антыфеад. руху і ўзброенага паўстання ў Крычаўскім старостве ў 1-й пал. 18 ст. Прыгонны селянін шляхціца Смаленскага пав. Карповіча. Збег ад свайго пана і пасяліўся ў в. Царковішча Крычаўскага староства, дзе выбраны сялянамі войтам. У час Крычаўскага паўстання 1743—44 у бітве паўстанцаў з войскам Радзівіла паблізу в. Царковішча 26—27.1.1744 у ліку 176 актыўных удзельнікаў паўстання трапіў у палон. 22.2.1744 суд, які адбыўся ў Крычаве ў прысутнасці бурмістраў, радцаў і лаўнікаў, прыгаварыў 16 кіраўнікоў паўстання да пакарання смерцю. В. быў пасаджаны на кол.

*Літ.:* Мелешко В. И. Положение и классовая борьба крестьян в Кричевском старостве в конце XVII — первой половине XVIII вв. // Akta Baltico-Slavica. Białystok, 1970. Т. 7; Яго ж. Классовая борьба в белорусской деревне во второй половине XVII—XVIII в. Мн., 1982. *В. І. Мялешка.*

**ВЕЦСЛАБАДСКІ БОЙ 1943**, сумесная баявая аперацыя партыз. фарміраванняў Беларусі, Латвіі, Літвы і Калінінскай вобл. РСФСР супраць ням.-фаш. захопнікаў у населеным пункце Вецслабада Латвійскай ССР 13.1.1943. У аперацыі ўдзельнічала 800 байцоў 3 бел. партыз. брыгад — «За Савецкую Беларусь» (пазней партыз. брыгада імя Ракасоўскага), Асвейскай імя Фрунзе і Дрысенскай (пазней 1-я Дрысенская), 4-я Калінінская партыз. брыгада (камандзір В. М. Лісоўскі, камісар В. Н. Вакарын), Латышскі [камандзір В. П. Самсон, камісар упаўнаважаны ЦК КП(б) Латвіі А. П. Ошкалн] і Літоўскі (камандзір П. Пранявічус) партыз. атрады. План аперацыі распрацаваны штабам Латышскага партыз. атрада, кіраўніцтва ёю ажыццяўляў штаб брыгады «За Савецкую Беларусь» на чале з камандзірам брыгады А. В. Раманавым. Атрады «Бясстрашны» (камандзір С. Ф. Бубін, камісар К. С. Кузняцоў) Дрысенскай брыгады, імя Шчорса (камандзір П. М. Машэраў, камісар С. Б. Пятроўскі) брыгады «За Савецкую Беларусь» і Латышскі склалі штурмавую групу. Астатнія атрады арганізавалі засадныя групы і групы прыкрыцця дарог, што звязвалі гарнізон Вецслабады з найбліжэйшымі гарнізонамі праціўніка, а таксама групы эвакуацыі нарабаванага ворагам збожжа. У ноч на 13 студз. штурмавыя групы скрытна падышлі да ўскраіны Вецслабады, па сігнале атакавалі варожыя дзоты і ўварваліся на цэнтр. вуліцу. Ва ўпартым баі партызаны разграмілі будынкі камендатуры, паліцэйскага ўчастка, валасной управы, падпалілі пошту, спіртзавод, узарвалі складскія памяшканні, захапілі 400 мяшкоў збожжа, 65 мяшкоў цукру, 4 тоны воўны, якія былі нарабаваны акупантамі ў насельніцтва, знішчылі больш за 50 гітлераўцаў. У выніку гэтай аперацыі партызаны сарвалі адпраўку ў Германію вял. запасаў збожжа і інш. прадуктаў харчавання, а таксама планы карных аперацый праціўніка супраць партызан.

*Літ.:* Всенародная борьба в Белоруссии против немецко-фашистских захватчиков в годы Великой Отечественной войны. Т. 2. Мн., 1984; Борьба за Советскую Прибалтику в Великой Отечественной войне 1941—1945. Кн. 1. Рига, 1966; Борьба латышского народа в годы Великой Отечественной войны, 1941—1945. Рига, 1970. *У. С. Пасэ.*

**ВЕЦЬ**, група археал. помнікаў каля в. Вець Быхаўскага р-на, якая складаецца з 2 стаянак, курганнага могільніка і селішчаў.

Стаянка-1 позняга *неаліту.* За 500 м на Пд ад вёскі, на левым беразе р. Гутлянка. Выявіў у 1926 К. М. Палікарповіч, даследаваў у 1959 І. І. Арцёменка. Культурны пласт 0,2—0,25 м. Знойдзены крамянёвыя скрабкі, клінападобныя сякеры, нажы, тронкавыя наканечнікі стрэл, рэтушор, каменны адбойнік, адшчэпы, фрагменты шыракагорлых пасудзін, арнаментаваных грабеньчатымі адбіткамі, неглыбокімі ямачнымі ўцісканнямі і наразнымі насечкамі. Пасудзіны вырабляліся стужачным спосабам, мелі прамыя ці зведзеныя ў верхняй частцы сценкі і канічнае дно.

Стаянка-2 позняга неаліту і *бронзавага веку.* За 400 м на Пд ад стаянкі-1, на правым беразе воз. Станавое. Адкрыў у 1926 Палікарповіч, даследаваў у 1954 Арцёменка. Культурны пласт 0,3—0,35 м. Выяўлены ромба- і лістападобныя наканечнікі стрэл, клінападобныя сякеры, пласціны з рэтушшу, канцавыя скрабкі, фрагменты пасудзін вял. памераў з канічным дном, пукатым тулавам і адагнутым вонкі венчыкам, упрыгожаныя глыбокімі цыліндрычнымі ямкамі, грабеньчатымі адбіткамі ў выглядзе дыяганальных паясоў, вуглавых зігзагаў, малюнкам «у елачку». Сустракаецца кераміка з «лапкавым» арнаментам, зробленым канцом палачкі, абматанай ніткай ці вяровачкай. Выяўлена невял. колькасць фрагментаў пасудзін бронзавага веку, арнаментаваных кароткімі наразнымі паглыбленнямі і адбіткамі перавітай вяровачкі. Знаходкі сведчаць пра кантакты мясц. неалітычных і прышлых сярэднедняпроўскіх плямён у перыяд рассялення апошніх на тэр. Верхняга Падняпроўя ў канцы 3 — пач. 2-га тыс. да н. э. Выяўленыя пад дзёрнам больш за 100 фрагментаў ганчарнай керамікі даюць падставу меркаваць пра існаванне тут селішча 12—13 ст.

Курганны могільнік эпохі Кіеўскай Русі. На паўн. ускраіне вёскі, на левым беразе старыцы Дняпра. Налічваў 11 акруглых у плане паўсферычных насыпаў. Вядомы з 1873, у 1964 часткова даследаваў Г. І. Іонэ. Знойдзены жаночыя ўпрыгожанні радзімічаў (бронзавыя бранзалеты, скроневыя кольцы). Побач з могільнікам знаходзіцца селішча 6—8 ст.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах // Изв. Археологической комиссии. Спб., 1903. Вып. 5; Палікарповіч К. М. Доследы культур каменнага і бронзавага перыядаў у Усходняй Беларусі // Зап. аддз. гуманіт. навук. Ін-та беларускай культуры. Мн., 1928. Кн. 5. Працы кафедры археалогіі, т. 1; Артеменко И. И. Неолитические стоянки у с. Веть Могилёвской области // Краткие сообщения Ин-та археологии АН СССР. М., 1964. Вып. 97. *А. Г. Калечыц, В. Ф. Капыцін.*

**ВЕЧА** (ад стараслав. вет — рада, стараж.-рус. вещать — гаварыць), народны сход у стараж. і сярэдневяковай Русі і на Беларусі, орган дзярж. улады (разам з князем) у асобных княствах. Узнікла з племянных сходак славян. Упершыню В. згадваецца ў летапісах пад 997 пры апісанні падзей у Белгарадзе. На Беларусі існавала ў стараж. Полацку (упершыню ў летапісах згадваецца пад 1159, паводле некаторых звестак у 1138 пры падтрымцы В. з Полацка выгнаны князь), Друцку, магчыма, у Менску, Віцебску і інш. Найб. звестак пра В. захавалася ў *Полацкай зямлі.* У перыяд феад. раздробленасці (канец 11—12 ст) роля В. пабольшала. Яго збіралі па меры неабходнасці, склікалі па ініцыятыве князя, пасаднікаў (службовых асоб) ці гар. насельніцтва. Правам удзелу ў В. карысталіся ўсе паўнапраўныя вольныя мужчыны, рашэнне прымалася шляхам адабрэння яго крыкамі. Вядучая роля на ім належала баярству. На В. вырашаліся пытанні вайны і міру, заканадаўства, заключэння дагавораў. В. магло запрашаць і выганяць князёў, выбіраць некаторых службовых асоб, судзіць за паліт. і інш. значныя злачынствы

Паступова страціла сваё значэнне і ў 14—15 ст. у ВКЛ было заменена соймам.

*Літ* Пьянков А П Происхождение общественного и государственного строя Древней Руси Мн, 1980, Сергеевич В И Вече и князь Рус гос устройство и управление во времена князей Рюриковичей. М, 1867, Штыхов Г В Древний Полоцк IX—XIII вв Мн, 1975

*А В Марыскін*

**«ВЕЧАВЫ́ ЗВОН»**, рэвалюцыйна-прапагандысцкі гурток эсэраўскага кірунку ў 1902—03 у г. Горы-Горкі Магілеўскай губ. (цяпер г. Горкі Магілеўскай вобл.). У яго ўваходзілі 5 навучэнцаў мясц. землямробчай школы І. П. Папоў (у 1901 выключаны са школы за атрыманне з-за мяжы забароненай брашуры Л. Талстога), В. К. Пятроў, А. Я Іпатаў, Ф. К. Кірсанаў і В. Н. Тамараў (вучыліся ў школе пасля выключэння за ўдзел у паліт хваляваннях з Казанскага землямробчага вуч., жылі на адной кватэры). Гурткоўцы склалі і надрукавалі літаграфічным спосабам пракламацыю «Да ўсяго сялянскага люду», якую разам з інш. друкаванымі матэрыяламі эсэраў («Аб барацьбе», «Аб праўдзе», «Гутаркі аб зямлі» і інш.) распаўсюджвалі ў лют. і крас. 1903 па вёсках Горацкага і Чавускага паветаў Неўзабаве гурток разграміла паліцыя. Папоў быў высланы на 5 гадоў ва Усх. Сібір, Пятроў і Іпатаў — на 3 гады ў Архангельскую губ., Тамараў і Кірсанаў на 3 гады аддадзены пад публічны нагляд паліцыі па месцы жыхарства бацькоў

*З В Шыбека*

**ВЕ́ЧАР** Алесь [Аляксандр Сцяпанавіч; 12(25).3.1905, в. Машчыцы Слуцкага пав., цяпер Слуцкі р-н — 4.5.1985], беларускі біяхімік, паэт. Акадэмік АН БССР (1966, чл.-кар. з 1959), д-р біял. навук (1951), праф (1951). Засл. дз. навукі і тэхнікі БССР (1975). Скончыў Бел. с.-г. акадэмію (1929). У 1928 кіраўнік Аршанскай філіі «Маладняка», потым Мінскай філіі БелАПП. У 1930 працаваў у НДІ сельскай і лясной гаспадаркі ў Мінску, адначасова займаўся літ. і выдавецкай дзейнасцю (рэдактар час. «Шляхі калектывізацыі», карэспандэнт газет). У 1929 уступіў у КП(б)Б, у 1930 выключаны ў сувязі з рэпрэсіямі сям'і, зняты з усіх займаемых пасад. Працаваў у Гарадоцкім с.-г. тэхнікуме, у НДІ харч. прам-сці БССР, у Кубанскім с.-г. ін-це і Краснадарскім ін-це харчовай прам-сці. З 1959 заг. лабараторыі Ін-та эксперым. батанікі АН БССР. Ініцыятар развіцця на Беларусі новага навук. кірунку — малекулярнай біялогіі. Аўтар зб. вершаў «Коладзен» (1930) і «Зварот да слова» (1977), у якіх выявіліся закаханасць паэта ў жыццё, вера ў сілу чалавечага розуму, навукі. На аўтабіягр. матэрыяле стварыў паэму «Мая гімназія» (1979). Пераклаў на бел. мову паэму А. Пушкіна «Домік у Каломне» (выд. 1937).

*Літ* · Биобиблиографический указатель научных трудов академика АН БССР А С Вечера Мн, 1985, А С Вечар (Да 75-годдзя з дня нараджэння) // Весці АН БССР Сер біял навук 1980 № 3

*Н У Васілеўская*

**ВЕЧАРЫНКА,** вечарына, вячоркі, забава, даўні звычай сял. моладзі збірацца вечарамі на танцы і гульні. Наладжвалі В пераважна зімой у прасторнай хаце або карчме. Бытавалі і ў гар. асяроддзі. У пач. 20 ст ў гарадах і мястэчках Беларусі аматарскія гурткі выкарыстоўвалі В. для папулярызацыі бел. літаратуры і мастацтва (т. зв. *беларускія вечарынкі).*

А Вечар.

**«ВЕЧЕ́РНИЙ МИНСК»**, грамадска-паліт. і інфармацыйна-рэкламная газета. Выдаецца ў Мінску 5 разоў на тыдзень. Заснавана ў ліст. 1967 Мінскім гар. Саветам дэпутатаў працоўных і Мінскім гар. к-там КПБ, у 1991 перарэгістравана калектывам рэдакцыі як незалежная газета. Выходзіла на бел. і рус. мовах, з 1991 толькі на рус мове. Асвятляе грамадска-паліт., эканам, культ. жыццё Мінска, пытанні навукі і нар. адукацыі, фізічнай культуры і спорту, змяшчае рэкламу. Друкуе матэрыялы па гісторыі Мінска, пытаннях зберажэння помнікаў гісторыі і культуры, праблемах нац. адраджэння.

**«ВЕЧЕ́РНЯЯ ГАЗЕ́ТА»**, штодзённая грамадска-паліт газета ліберальнага кірунку. Выдавалася з 18.9(1.10).1912 да 11(24).6.1915 у Вільні на рус. мове. Рэдактар-выдавец Ф. М.Хатэнка. Асвятляла міжнар. і ўнутранае жыццё, дзейнасць урада і Дзярж. думы, падзеі 1-й сусв. вайны. Выступала за буржуазна-дэмакр. рэформы, культурна-нац. самавызначэнне народаў Расіі, інфармавала пра рабочы і сял. рух на Беларусі і ў Літве. Прыхільна ставілася да бел. нац. руху, падтрымлівала газ. *«Наша ніва»* ў яе палеміцы з рус. і польскімі выданнямі. У перадавым арт. «Культурнае свята» (25.2.1914) адзначала асн. этапы нац.-культурнага адраджэння беларусаў, бачыла ў іх сац. і духоўным абуджэнні значны культ. набытак чалавецтва. Выкрывала рэакц. сутнасць газ. *«Северо-Западная жизнь»*, якую рэдагаваў Л. Саланевіч. У «В. г» быў надрукаваны артыкул А. Н. [верагодна, Антона Навіны (А. Луцкевіча)] «Аграрная рэформа на Беларусі» (15.1.1914) Змясціла 6 артыкулаў пра бел. нац.-культурнае адраджэнне з подпісам «Бо-вичъ» [верагодна, М. Бабровіч (Л Гмырак)], у якіх аўтар абараняў гіст. права бел. народа на сваю мову і л-ру, крытыкаваў палітыку нац. ўціску, супрацьпастаўляючы ей сяброўскую падтрымку адраджэнскага руху беларусаў з боку М. Горкага, перадрукаваў у яго перакладзе верш Я Купалы «А хто там ідзе?» У газеце апублікавана інтэрв'ю з В. Брусавым, які ў 1914 прыязджаў у Вільню, і змешчаны ў яго перакладзе 4 вершы Я. Купалы.

*У М Конан*

**ВЕ́ЧНЫ АГО́НЬ.** Запальваюць і падтрымліваюць на месцах бітваў, каля помнікаў, манументаў, на брацкіх магілах і мемарыяльных могілках воінаў, партызан, ахвяр фашызму, каля курганоў Славы, Памяці, Бессмяротнасці як сімвал увекавечання памяці тых, хто загінуў. На Беларусі В. а. гарыць: каля манументаў Перамогі ў Мінску і Віцебску; у Брэсцкай крэпасці-герої; каля помніка Вызвалення ў Баранавічах; каля помніка загінуўшым у Вял. Айч. вайну сав. воінам і партызанам у Белаазёрску, Смалявічах, Стоўбцах, г. п. Шуміліна, у в. Галоўчын Бялыніцкага р-на рабочым «Гомсельмаша», рабочым і служачым шклозавода ў г. п. Касцюкоўка Памяці ахвяр фашызму лагераў смерці Трасцянец, Масюкоўшчына (Мінскі р-н), спаленай гітлераўцамі в. Драмлёва ў в. Сцяпанкі Жабінкаўскага р-на, каля курганоў Славы на 21-м км дарогі Мінск — Масква, у Гродне, Лідзе, Мазыры, курганоў Бессмяротнасці ў Полацку, на брацкіх магілах сав. воінаў і партызан у Бабруйску, Бярозе, Гомелі, Дзятлаве, Ляхавічах, Мастах, Нясвіжы, Рэчыцы, Слоніме; на магілах Невядомага салдата ў Гарадку, Навагрудку, у г. п. Карэлічы; у мемарыяльным парку Герояў у Оршы; у мемарыяльных комплексах Хатынь (Лагойскі р-н), «Прарыў» (Ушацкі р-н), «Рыленкі» (Дубровенскі р-н), сав.-польскай баявой садружнасці ў в. Леніна Горацкага р-на, «Змагарам за савецкую ўладу» ў Магілеве, «Вызваліцелям» у Пінску, у в. Верцялішкі (Гродзенскі р-н).

Вечны агонь на брацкіх могілках у г п Шуміліна

**«ВЕ́ЧНЫ МІР» 1686,** дагавор Расіі з Рэччу Паспалітай, падпісаны ў 1686 у Маскве. Пасля *Андросаўскага перамір'я 1667* маскоўская дыпламатыя спрабавала

ствaрыць шырокую антытурэцкую кааліцыю, але гэта доўгі час не прыносіла поспеху. У 1676 Рэч Паспалітая падпісала з Портай (урад Асманскай імперыі) Жураўненскае пагадненне. Пазней як адну з умоў свайго ўваходжання ў антытурэцкі блок яна выстаўляла патрабаванне вярнуць сабе Кіеў і Смаленск. Аўстрыю стрымлівала пагроза вайны з Францыяй, якая падтрымлівала Турцыю, а ў 1681 і сама Расія падпісала Бахчысарайскае пагадненне аб 20-гадовым перамір'і з Турцыяй і Крымам. Перад пагрозай турэцкай агрэсіі польскі кароль Я. Сабескі таксама спрабаваў стварыць кааліцыю супраць Порты. Ён пайшоў на саюз з Аўстрыяй. У 1683 дасягнута пагадненне паміж Венай і Варшавай, дзякуючы гэтаму агульнымі сіламі ўдалося разграміць асманскую армію ў бітве пад Венай і выратаваць сталіцу імперыі Габсбургаў. Аднак рознагалоссі ў тэрытарыяльных пытаннях на Балканах прымусілі Я. Сабескага шукаць саюзнікаў сярод такіх краін, як Малдавія, Валахія, Персія, Егіпет і інш. На саюз з Расіяй Рэч Паспалітая магла б пайсці толькі без падпісання «вечнага міру», але якраз апошняга прынцыпова дамагалася Масква. Таму Варшава адхіляла прапановы Масквы па стварэнні антытурэцкага блока. Толькі пасля таго, як у 1685 высветлілася, што Рэч Паспалітую адмовілася падтрымліваць Аўстрыя, не падпісала пагаднення Францыя, а Крым спыніў самастойныя адносіны з Варшавай, кароль пайшоў на перагаворы з Расіяй. У студз. 1686 у Маскву прыехала «вялікае пасольства» К. Гжымултоўскага ў складзе вял. канцлера літ. М. Агінскага, мечніка ВКЛ М. Агінскага, падстолія кароннага А. Прыімскага і палкоўніка Я. Патоцкага, якое пачало перагаворы з прадстаўнікамі царскага ўрада баярамі І. В. Бутурліным, В. В. Галіцыным, Б. П. Шарамецевым. Абодва бакі адначасова накіравалі сваіх паслоў у Турцыю. Спачатку сустрэчы праходзілі ў выключна напружанай атмасферы, але пасля таго, як стала вядома пра пагадненне, падпісанае ў сак. 1686 паміж Аўстрыяй, Брандэнбургам і Швецыяй, сакрэтныя артыкулы якога абавязвалі гэтыя краіны ахоўваць канстытуцыю магнацка-шляхецкай рэспублікі ў нязменным выглядзе і блакіраваць усе пераўтварэнні Я. Сабескага, яго дынастычныя і тэрытарыяльныя планы, перагаворы пайшлі хутчэй. 26.4(6.5).1686 падпісана пагадненне аб «вечным міры» і сумесных дзеяннях супраць Турцыі і Крыма. Рэч Паспалітая канчаткова прызнавала межы, вызначаныя Андросаўскім трактатам. Сотні тысяч палонных, вывезеныя каштоўнасці, званы і зброя — усё «навечна» лічылася ўласнасцю Расіі. Дзевяты артыкул пагаднення, які дазваляў Маскве апекавацца праваслаўнымі, падрываў суверэнітэт Рэчы Паспалітай. «В. м.» з'явіўся важнейшай падзеяй міжнар. жыцця краін Цэнтр. і Усх. Еўропы, якая вызначыла новыя адносіны паміж Рэччу Паспалітай, Расіяй, імперыяй Габсбургаў і Венецыяй. Гэта быў акт дыпламатычнага паражэння Рэчы Паспалітай, акт канчатковага пераразмеркавання сіл, які замацоўваў Расію ў ролі наймагутнейшай дзяржавы ў Цэнтр. і Усх. Еўропе.

*Кр.*: Полн. собр. законов Российской империи. Собр. 1-е. Т. 2. № 1186.

*Літ.*: Греков И. Б. Международное значение договора 1686 г. между Россией и Речью Посполитой // Przemiany w Polsce, Rosji, na Ukrainie, Białorusi i Litwie: (druga połowa XVII — pierwsza XVIII w.). Wrocław etc., 1991. *Г. М. Сагановіч.*

**ВЁСКА** (старaж.-слав. вѣсь), асноўны тып сельскага паселішча на Беларусі. Узнікла пры рассяленні земляробаў. В. уласцівы ўклад жыцця, звязаны з с.-г. вытворчасцю і нар. традыцыйна-бытавой культурай. На працягу многіх стагоддзяў В. была хавальніцай самабытных нар. традыцый, што стварала грунт для нац. адраджэння і этнічнага самазахавання бел. народа. Гісторыя В. адлюстроўвае працэс засялення і асваення этнічнага абшару, развіцця вытв. сіл і сац.-эканам. адносін, зменлівую этнапаліт. сітуацыю.

Напачатку В. былі практычна ўсе паселішчы аселых земляробаў і жывёлаводаў. Размяшчаліся яны пераважна на поплаўных узвышшах ці берагавых схілах, звычайна не вышэй за 10 м над узроўнем ракі, возера. Скопішчы паселішчаў чаргаваліся з вял. незаселенымі прасторамі міжрэчных узвышшаў, водападзелаў, лясоў. Памеры і формы В. былі разнастайныя, але пераважалі невялікія і сярэднія, плошчай да 3 га, з бессістэмнай забудовай. У выніку аддзялення рамяства ад сельскай гаспадаркі з агульнай масы паселішчаў пачалі вылучацца рамесна-гандлёвыя і адм.-паліт. цэнтры, якія з цягам часу ператварыліся ў *гарады* і *мястэчкі*. На Беларусі гэтыя працэсы прасочваюцца ў археал. матэрыялах 8—9 ст. З таго часу В. становяцца спецыфічнымі паселішчамі, якія адрозніваюцца ад інш. населеных пунктаў функцыямі і складам насельніцтва. У 8—9 ст. у выніку пераходу ад радавой да суседскай *абшчыны* (грамады) з'яўляюцца асобныя сялянскія двары-*сядзібы*. Распад радавой абшчыны суправаджаўся гасп. прагрэсам: стала пашыранай саха, ляднае (пасечнае) земляробства змянілася лясным пералогам і пачатковай папарнай сістэмай. Замест паўзямлянак пачалі будаваць наземныя *хаты*, заглыбленыя ў грунт пабудовы выкарыстоўваліся толькі ў гасп. мэтах. З канца 10 да сярэдзіны 13 ст. колькасць В. павялічылася больш як удвая. Рассяленне стала больш шчыльным, але заставалася шмат незаселеных месцаў, у т. л. міжрэчныя ўзвышшы. Пабольшалі і памеры ранейшых В. Павялічылася колькасць сярэдніх і маладворных В., якія, аднак, былі недаўгавечнымі, бо адбывалася інтэнсіўнае адгаліноўванне паселішчаў, якія складаліся з некалькіх сем'яў. Традыцыйна захавалася бессістэмная забудова, але ўсё часцей з'яўляюцца В. з рэгулярнай лінейнай планіроўкай. Пашыралася папарная сістэма земляробства. Пра даволі высокі ўзровень жыцця сялян, якія ў большасці выпадкаў заставаліся асабіста, а месцамі і пазямельна вольнымі, сведчаць знаходкі шматлікіх рэчаў матэрыяльнай культуры, упрыгожанняў і інш. З 11 ст. ў В. пранікае хрысціянскае веравызнанне, якое да 13 ст. амаль цалкам выцесніла язычніцтва. Даволі значная колькасць невялікіх умацаваных рэзідэнцый-замкаў сведчыць пра пашырэнне з 10—12 ст. феад. землеўладання. У канцы 13—14 ст. пачалося асваенне міжрэчных узвышшаў і водападзелаў, дзе сталі яшчэ некранутыя лясы. Многа новых В. земляробаў узнікла на ачышчаных ад лясоў абшарах.

Большасць іх будавалася на берагах рэчак і азёр, бо глеба рачных далін была больш урадлівая, вадаёмы з'яўляліся надзейнай крыніцай пітной вады, а рэкі служылі зручным шляхам зносін. За кошт такога перасялення зменшылася колькасць В. у рачных далінах. Драбнаконтурнасць палеткаў і інш. угоддзяў была прычынай фарміравання маладворных В., якія і пераважалі на працягу некалькіх стагоддзяў. Змена структуры рассялення была выклікана масавым пашырэннем трохполля, складваннем феад. гаспадаркі.

У 14—16 ст. бел. В. пераважна былі невялікія, не болей за 20 двароў. Аднак у асобных месцах Беларусі існавалі і вял. паселішчы, напр. у 1560 у Магілёўскай воласці былі В. па 100 і болей двароў. У гэты час сельскае паселішча найчасцей называлася *сялом*, дробныя пасёлкі — прыселкамі. У пісьмовых крыніцах аднасна сельскіх паселішчаў занатаваны і найменні «зямля», «служба», «слабада», «слабодка», «воля» і інш. Своеасаблівым відам сельскіх паселішчаў былі размешчаныя паблізу феад. маёнткаў «двaрцы», заселеныя панскімі слугамі. На працягу 16—17 ст. на Беларусі ўзніклі паселішчы *ваколічнай шляхты*, якая займалася сельскай гаспадаркай,— *аколіца*, *засценак*. Існавалі таксама шматлікія аднадворныя і маладворныя паселішчы: корчмы, двары млынароў, леснікоў і інш.

Да сярэдзіны 16 ст. пераважала скучаная (бессістэмная) планіроўка, калі сялянскія хаты размяшчаліся асобнымі групамі. У дакументах таго часу сялянскія сядзібы называюцца дымамі, дварамі, сяліцьбамі. У выніку *валочнай памеры* пашыралася вулічная планіроўка, якая была адметнай рысай бел. В. на працягу некалькіх стагоддзяў. Узнікла мноства т. зв. устаўных вёсак (ад *«Уставы на валокі» 1557*), дзе жылыя дапаможныя памяшканні сталі па адзін бок вуліцы, а гаспадарчыя па другі. Сям'я ў такіх вёсках звычайна мела адну *валоку* зямлі. У Панямонні і цэнтр. Беларусі такія В. захаваліся да пач. 20 ст. В. з вулічнай планіроўкай звычайна абгароджваліся, уезд у іх быў праз браму, каля якой ставіўся крыж. У аколіцах пераважала бессістэмная забудова, хаты звычайна сталі ў глыбіні двара, у засені дрэў. Асабліва шмат такіх паселішчаў было ў Ашмянскім і Лідскім пав., а так-

сама ў Пасожжы і бас. Друці. Са збядненнем *дробнай шляхты*, якая ў 19 ст. была ўраўнавана ў правах з сялянамі, розніца паміж аколіцай і В. паступова знікла.

У складзе дваровай забудовы адзначаюцца: жылы дом (будынак, хата, харомы, ізба), клець, свіран, хлеў (абора), гумно (стадола, клуня). У заможных сядзібах гасп. будынкаў было болей. На будаўніцтва ішлі пераважна хвойныя пароды дрэў. Падлога ў жылых дамах была земляная (глінабітная) ці драўляная. Страха (дах) 2- або 4-схільная, яе крылі саломай, чаротам, дранцай, доўгі час рабілі зрубныя шчыты. Да 14—16 ст. печы ў сялянскіх хатах былі глінабітныя, пазней — з цэглы. У курных, «чорных» (печ без коміна) хатах жыла найчасцей *чэлядзь нявольная*. Інтэр'ер хаты бел. селяніна на працягу стагоддзяў захоўваў традыцыйныя рэчы хатняга побыту: стол, паліцы, лавы, кублы, скрыні, жорны і г. д. Паводле планіроўкі сялянскія дамы былі 2- (хата + сенцы) або 3-камернымі (хата + сенцы + камора). Асноўнымі прыладамі працы селяніна былі саха, барана, рыдлеўка (рыдла), матыка, капач, серп, каса, цэп, вілы, граблі. Пісьмовыя крыніцы сведчаць, што бел. В. была дастаткова забяспечана рабочай жывелай. Сяляне займаліся таксама промысламі, паляваннем, бортніцтвам, рыбалоўствам, а часам і рамяством: кавальствам, ганчарствам, дрэваапрацоўкай; актыўна гандлявалі на рынках і кірмашах. Дакументы 16 ст. сведчаць пра наяўнасць у сялян значных запасаў збожжа і інш. с.-г. прадукцыі, прылад працы, тканін, адзення і інш. рэчаў, што дазваляе сцвярджаць пра трывалае эканам. становішча большасці сял. гаспадарак феад. Беларусі.

На працягу 17 — пач. 20 ст. адбыліся істотныя зрухі ў сац.-эканам. структуры грамадства, характары рассялення і вонкавым абліччы сельскіх паселішчаў. З павелічэннем плошчы ворыва і асваеннем новых зямель пашырылася фальваркавая сістэма гаспадаркі (гл. *Фальварак*), стала больш В. з выразнай планіровачнай структурай вулічнага тыпу. Моцна пацярпелі В. ў ходзе падзей *антыфеадальнай вайны 1648—51, вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67, Паўночнай вайны 1700—21*, падзелаў Рэчы Паспалітай у канцы 18 ст. У выніку адбыліся страшэнныя спустошэнні, насельніцтва Беларусі скарацілася больш як удвая. У 1654—67 пуставала больш за палавіну ворных зямель. Мясцовыя жыхары хаваліся ад рабаўнікоў у лясах, ладзілі зямлянкі і схованкі для ацалелага скарбу і харчу. З мэтай ажыўлення эканомікі разбураных раенаў феадалы заахвочвалі пэўнымі льготамі перасяленцаў, вызвалялі іх на 3—10 і болей гадоў ад падаткаў. У выніку ўзнік новы тып паселішчаў — слабоды, якія праз пэўны час набывалі статус звычайнай В. Мноства В., асабліва ў Падняпроўі і Пасожжы, утварылася на месцы былых буд і гут, аб чым сведчаць іх назвы Практыкавалася апрацоўка зямель «наездам», калі селянін распрацоўваў лясное ляда на пэўнай адлегласці ад сваей сядзібы, ставіў тут гасп. будынкі для захоўвання ўраджаю, потым хату і з цягам часу пакідаў старую сядзібу. Побач з такімі надзеламі ўзнікалі В., якія найчасцей складаліся з блізкіх сваякоў. Як і раней, асн. структурнай адзінкай В. быў сялянскі двор (сядзіба) з дапасаваным да яго комплексам гасп. будынкаў, што размяшчаліся ў пэўнай паслядоўнасці, утвараючы замкненую (вянковую), пагонную (сцежкавую), 2- ці 3-радковую, Г-падобную ці свабодную (бессістэмную) забудову. На адлегласці ад асн. комплексу, у межах сядзібы (нярэдка праз вуліцу), ставілі гумно (стадола, клуня, ток), асець ці еўню, пуню для сена (сенніца), лазню. Жыллё складалася звычайна з 2—3 памяшканняў (хата + сенцы, хата + сенцы + + клець або абора, хата + сенцы + варыўня і інш.) і, як увесь сядзібны комплекс, вызначалася асаблівасцямі таго ці іншага *гісторыка-этнаграфічнага рэгіена* Беларусі.

Амаль кожны сялянскі двор быў універсальнай гаспадаркай, якая амаль цалкам забяспечвала свае патрэбы. Толькі вельмі абмежаваная колькасць тавараў (соль, ганчарны посуд і некаторыя металічныя вырабы) набывалася на рынку ці рабілася на заказ. Нягледзячы на сваю самастойнасць і універсальнасць, сялянскі двор быў цесна звязаны з сельскай грамадой суседскімі і сваяцкімі сувязямі, устойлівымі нормамі нар. маралі, *звычаю* і *звычаевага права* Група суседніх В. утварала сельскую акругу *(валасць)*, якая вызначалася аднароднасцю насельніцтва, значным падабенствам духоўнага і эканам. жыцця. У межах гэтых акруг бралася пераважная большасць *шлюбаў*. Паводле этнаграфічных звестак з Палесся і Падняпроўя, В. за 5—10 верст лічылася «чужой староной», дзяўчаты неахвотна ішлі туды замуж. У акрузе вылучаўся цэнтр — адна з В. або сяло,— які вызначаў рытм мясцовага нар. жыцця, да яго цягнуліся жыхары суседніх паселішчаў (асабліва ў святочныя і кірмашовыя дні). Культурны ландшафт і знешняе аблічча вясковай правінцыі адлюстроўвалі, з аднаго боку, агульна-беларускія, з другога — рэгіянальныя і мясцовыя рысы.

На Пн Беларусі і ў Падзвінні асн. маса сельскага насельніцтва жыла ў маладворных вёсках і на *хутарах*, раскіданых сярод лясных пагоркаў паблізу рэк і азёр. Паводле 1-га ўсерасійскага перапісу 1897, у Віцебскай губ. на кожныя 100 квадратных верст прыпадала 70 сельскіх паселішчаў, у кожным з якіх жыло ў сярэднім 50 жыхароў. Сяліліся звычайна ў баку ад вялікіх дарог з улікам прыстасаванасці да экалагічных умоў, наяўнасці выгану побач і «нічыйных» зямель, суседства з вадаемамі і лесамі, што надавала паселішчам азернага краю патрыярхальна-экзатычныя рысы. Невялікія В. і хутары, рассыпаныя на шырокіх абшарах сярод векавых лясоў, марэн і азёр, служылі адначасова сховішчам ад вельмі частага ў гэтым краі ваеннага рабаўніцтва чужынцамі, наездаў свавольнай шляхты, пастояў войска, зборшчыкаў падаткаў. Паміж В. і суседнімі хутарамі, засценкамі і асобнымі сядзібамі пралягалі слаба пратаптаныя вузкія праселкі і сцежкі. Узімку пракладвалася мноства часовых дарог (зімнікаў), што вялі наўпрост скарочанымі маршрутамі па замёрзлых рэках і азерах. Тут быў пашыраны вянковы тып сядзібнай забудовы з размяшчэннем будынкаў па перыметры двара. Адначасова траплялася і кампактная забудова, калі гасп. памяшканні шчыльна прымыкалі да жылля, утвараючы адзіны жыллева-бытавы комплекс з крытым двaром (вядомы толькі ў гэтым бел. рэгіене).

У сярэднняй паласе Беларусі характар сельскага рассялення вызначаўся больш выразнай кампактнасцю і шчыльнасцю насельніцтва. Тут, побач з прырэчнымі, часцей сустракаліся В. на водападзелах

На У Беларусі самай асвоенай і заселенай была левабярэжная частка Падняпроўя — Аршанска-Магілеўская і Горацка-Мсціслаўская раўніны з масівамі ўрадлівых глеб. У міжрэччы Дняпра і Друці найбольш шчыльная сетка В. і іншых тыпаў паселішчаў здаўна была ўласціва паўночнай частцы паміж Магілёвам, Копыссю і Друцкам, аб чым сведчыць тапаграфія паселішчаў на карце ВКЛ 1613 Т. Макоўскага. На Пд цягнулася паласа густых лясоў, дзе, паводле Баркулабаўскага летапісу 17 ст., на значнай прасторы існавала толькі тры В На працягу 17—19 ст. высечка і прамысловая распрацоўка лесу прыкметна змянілі мясцовы ландшафт, і на навіне ўзнік шэраг В., аб гісторыі засиавання якіх сведчаць іх назвы: Буды, Гуты, Майданы, Ляды, Канцы, Пільня, Сякерка Пасля адмены *прыгоннага права* адбываўся даволі актыўны міграцыйны рух далей на З у лясныя раены Бярэзінскага басейна Мігранты прыносілі з сабой вытворчы вопыт і этнакультурныя традыцыі, прыстасоўваючы іх да мясцовых умоў. Грунтоўна, з улікам тагачасных санітарна-бытавых норм ставілі дыхтоўныя дамы і гасп. будынкі, абносілі іх трывалым парканам з брамамі на вуліцу. Найменш заселены ў гэтым рэгіене быў водападзел Бярэзіны і Друці, які ў старажытнасці служыў этнічнай мяжой паміж крывічамі і дрыгавічамі.

На З ад Бярэзіны, у межах цэнтр. Беларусі, найбольш густа была заселена Слуцка-Нясвіжская лесавая раўніна, што лічылася жытніцай Беларусі. Вёскі па 20—40 сядзіб вулічнага тыпу ўтваралі тут густую сетку паселішчаў і размяшчаліся ўздоўж дарог на адкрытай мясцовасці

Тыпалогія і знешняе аблічча паселішчаў суседняга Панямоння, апрача мясцовых экалагічных умоў, адлюстроўвала складаную этнасацыяльную сітуацыю ў гэтым рэгіене. Народная архітэктура прагрэсіравала тут крыху хутчэй, чым у іншых рэгіенах Беларусі, актыўна перай-

мала і перапрацоўвала асобныя канструкцыйныя формы Захаду. У сярэдняй паласе Беларусі В. былі большыя, чым на Пн У 18—19 ст. у В. тут было па 20—30 сядзіб Напр., паселішчы, што ўзніклі на тэр. Крычаўскага і Чачэрскага староства у 1-й пал. 18 ст. (пасля Паўночнай вайны 1700—21), мелі 20—23 сядзібы кожнае Паводле Е Р. Раманава, з 59 В., абследаваных у Быхаўскім пав. на мяжы 19—20 ст., 34 % мелі да 10 двароў, каля 9 % — 10—20 двароў, 27 % — 20—50 і 30 % — больш за 50 двароў. У сярэдняй паласе В. вызначаліся выразнай вулічнай структурай з наяўнасцю больш стараж. цэнтральнай часткі і канцоў Іх тапаграфія нярэдка ўскладнялася завулкамі і размешчанымі на водшыбе асобнымі дварамі. Некалькі ў глыбіні ад вуліцы ставілі свае жытло сельскія святары, службовыя асобы, а таксама сяляне, што цярпелі стыхійныя бедствы — пажары, разбурэнні ад урагану ці неаднаразовую заўчасную смерць блізкіх будаваць жытло на ранейшым «няшчасным» («праклятым») месцы не раіла нар. павер'е

На Бел Палессі своеасаблівыя экалагічныя і этнакультурныя ўмовы адбіваліся і на характары рассялення В. і арганізацыі жылога асяроддзя. Сельскія паселішчы тут былі размеркаваны нераўнамерна па тэрыторыі. Найбольшай шчыльнасцю вылучаліся раёны лесавых раўнін у ніжнім цячэнні Прыпяці, у цэнтр частцы Палесся (Тураўшчына) і на яго захадзе (Загароддзе і Пабужскае Падляшша). Вялікія ж абшары Прыпяцкага Палесся па-ранейшаму заставаліся слаба асвоенымі і рэдка заселенымі. Тут пераважаў прырэчны ці прыазерны тып рассялення. Мнагадворныя В. размяшчаліся па берагах рэк і яроў, на забалочаных абшарах Прыпяцкага Палесся — часта на марэнных пагорках і дзюнных астравах па краі балот Структура, планіроўка і контуры В. нярэдка паўтаралі арграфію мясцовасці, з улікам характару грунту і зручнасці пад'язных шляхоў Неад'емнай рысай сельскіх ландшафтаў былі штучныя дарожныя збудаванні — гаці, дамбы, масты, кладкі, пераходы на палях («лавы»). Побач з мнагадворнымі тут сустракаліся і невялікія В. ў 5—10 сядзіб, засценкі і хутарывыселкі. У глухіх месцах Палесся здаўна асядалі беглыя сяляне, што ратаваліся ад прыгону і інш. ганенняў. Адміністрацыя казенных лясоў і мясцовыя землеўладальнікі часам толькі праз шмат гадоў даведваліся пра сваіх навасёлаў, уключаючы іх у падатковае саслоўе Тут сяліліся і дробныя прамыслоўцы, якія закладвалі паташныя буды, смалакурні, здабывалі балотную руду, выплаўлялі жалеза, збываючы яго мясц сялянам на сашнікі і хатні інвентар. Адзін з самабытных куткоў Палесся — Зарэчча, дзе шматлікія рэкі (Стыр, Ясельда, Піна, Бобрык і інш ) упадаюць у Прыпяць на невялікай адлегласці, утвараючы мноства рукавоў, пратокі, «гнілых» рэчышчаў. Вясною і ў пачатку лета ўвесь гэты раён ператвараўся ў вялізнае возера, сярод якога ўзвышаўся архіпелаг астраўкоў з палескімі В. Зносіны паміж імі, а нярэдка і асобнымі дварамі адной В. на працягу некалькіх месяцаў былі магчымыя толькі з дапамогай лодак. Палескія рэкі наогул з'яўляліся важнымі шляхамі зносін і адыгрывалі істотную ролю ў гаспадарчай дзейнасці і штодзенным побыце. Уздоўж рэк цягнуліся заліўныя лугі, якія служылі добрай кармавой базай для жывелагадоўлі, прыбярэжныя тэрасы, рэшткавыя марэнныя ўзвышшы і пагоркі былі зручныя для засялення. В. вулічнага тыпу найчасцей размяшчаліся паралельна рацэ, сядзібы часцей выходзілі да ракі сваімі задворкамі і агародамі. Традыцыйная сядзібная забудова — аднародная (пагонная), радзей — з нязвязанымі пабудовамі, вянковая і бессістэмная.

Амаль усе будынкі ў бел. В таго часу рубіліся з дрэва, пераважна з хвоі, радзей з елкі Ніжні вянок (падруба), штандары, бакавыя шулы, апорныя сохі ў гумнах і паветках рабілі з дубу На будаўніцтва гасп памяшканняў ішлі і лісцевыя пароды — асіна, вольха. На Палессі асіну выкарыстоўвалі часам і ў будаўніцтве жылля. Пры захаванні пэўнай тэхналогіі і рэжыму такія хаты служылі сто і болей гадоў. Былі ў В і мураваныя будынкі з валуноў, цэглы, гліны. Стрэхі звычайна крылі саломай, на Палессі — трыснягом і чаротам, у лясных краях таксама драўляным матэрыялам (колатымі дошкамі, дранцай, гонтай). Да 1860—70-х гадоў пераважалі курныя вясковыя хаты На Палессі сустракаліся печы, што выходзілі вусцем у сенцы, аднак такія хаты ўзімку трымалі менш цяпла. Курныя хаты хутка саступалі месца так званым чыстым, якія мелі печы з дымаходам і паліліся «па-беламу». Гэты працэс пачаўся раней і ішоў хутчэй у вёсках дзярж. сялян. Так, у канцы 1850 — пач. 1860-х гадоў з 34 тыс двароў дзярж. сялян Гродзенскай губ. крыху больш за палавіну ўжо мелі «чыстыя» хаты, у той час як сярод 47 тыс. двароў прыватнаўласніцкіх сялян пераважалі курныя хаты (80—83 %).

На ўсіх этапах феадалізму існаваў пазаэканамічны прымус, які даваў магчымасць землеўладальнікам забіраць у сялян прыбавачны прадукт (гл. ў арт. *Землекарыстанне*) Пасля адмены прыгону адбыліся істотныя змены ў жыцці В., у цывільна-прававым статусе яе жыхароў, у духоўнай і матэрыяльнай культуры. Паскорыўся працэс распаду вял. трохпакаленнай сям'і, дарослыя сыны ўтваралі самастойныя гаспадаркі і ставілі свае жылле на той самай сядзібе, што вяло да драблення зямельных надзелаў і скучанасці забудовы На вузкай сядзібнай палосцы сяліліся часам 2 ці нават 3 сям'і. Пры гэтым іх жылыя і гаспадарчыя памяшканні ўтваралі доўгі пагон (сцяг), выцягнуты на некалькі дзесяткаў метраў. Былыя валочна-ўстаўныя вёскі забудоўваліся абапал вуліцы. З распадам сялянскай абшчыны павялічыўся рух сялян з В. ў горад і перасяленне на хутары, што часцей назіралася ў паўн.-усх Беларусі. У выніку *сталыпінскай аграрнай рэформы* пач. 20 ст. ў Віцебскай губ на хутары перасялілася 23,3 % сялянскіх гаспадарак, у Магілёўскай губ.— 12,3, Гродзенскай — 9,3, Віленскай — 7,2, Мінскай — толькі 4,6 % Сталыпінская аграрная рэформа падводзіла заканадаўча прававую базу пад натуральны гіст. працэс эвалюцыі сял. гаспадаркі і яе развіцця па шляху фермерскай гандлёва-рыначнай вытворчасці.

Аднак гэты працэс быў прыпынены 1-й сусв. вайной 1914—18, у выніку якой Беларусь моцна пацярпела У 1915—18 амаль уся яе тэрыторыя была акупіравана герм войскамі. Вял. колькасць насельніцтва, у т. л. і жыхары В, падалася ў *бежанцы* Кастр. рэвалюцыя 1917 паклала пачатак сав перыяду ў развіцці В. на той тэр. Беларусі, якая трапіла ў склад БССР. На працягу больш як 70 гадоў рабіліся намаганні стварыць адзіную, неперсаніфікаваную дзяржаўную або грамадскую ўласнасць, дамагчыся уніфікацыі ў В ўсіх эканам. укладаў, ствараючы на базе гэтай уласнасці гаспадаркі дзярж. тыпу — *калгасы* і *саўгасы* Адбыліся значныя змены ў сац-класавай структуры В. Паводле *Дэкрэта аб зямлі 1917* пачалася канфіскацыя буйной зямельнай уласнасці, асн. тыпам гаспадаркі ў В. стала дробная індывідуальная гаспадарка. Быў ліквідаваны клас памешчыкаў, скарацілася колькасць заможных сялян (гл. ў арт. *Кулацтва*) у параўнанні з 1917 не менш як у 5 разоў, у якіх былі адабраны значныя плошчы зямлі і частка сродкаў вытворчасці. У выніку адбылося распыленне сродкаў вытворчасці буйных уласнікаў сярод шырокай масы сялянства. Знікла катэгорыя памешчыцкіх парабкаў У В. вялася ліквідацыя непісьменнасці, ствараліся ячэйкі РКП(б) і камсамола, прафсаюзныя арганізацыі, якія вялі работу па выхаванні сялян у пралетарскім духу, выкараненні дробнапрыватніцкай сял. псіхалогіі, паскаралася развіццё *кааперацыі* У выніку *харчразверстка*, прымусовага адчужэння большай часткі атрыманай с.-г прадукцыі была падарвана зацікаўленасць селяніна ў вытворчасці, захоўвалася сац напружанасць у грамадстве. Пры пераходзе да *новай эканамічнай палітыкі* (нэп) у 1920-я гады разверстка была заменена *харчпадаткам*, змяніліся метады сацыяліст. будаўніцтва ў В. Паводле зямельнага заканадаўства сялянам давалася свабода выбару форм землекарыстання (калектыўная, надворна-цераспольная, адрубная і інш.) пры захаванні прынцыпу прыярытэтнага развіцця гаспадарак, аб'яднаных у калектывы. Адносіны паміж В і горадам будаваліся на аснове росту эканам. сувязей і ўзмацнення ролі горада ў аднаўленні і развіцці сельскай гаспадаркі. У 1921 сялянскае землекарыстанне складала 63,5 % усей зямлі супраць 52,3 % у 1917. Астатняя зямля знаходзілася ў распараджэнні дзяржлесфонду, саўгасаў, запаснога фонду і фонду спецыяльнага прызначэння. У сярэдзіне 1920-х гадоў сельская гаспадарка БССР дасягнула па-

казчыкаў 1913, хоць ураджайнасць і прадукцыйнасць жывёлы заставаліся на ўзроўні 1905—13. Асноўным вытворцам прадукцыі быў серадняк, умацоўваліся заможныя, т. зв. кулацкія, гаспадаркі, адбывалася пралетарызацыя часткі бяднейшага сялянства. Павялічвалася колькасць *парабкаў* у сялянскіх гаспадарках і рабочых-адыходнікаў (гл. *Адыходніцтва*). Паводле выбарачнай статыстыкі, у 1927 у БССР сярэднія па заможнасці сяляне складалі 64,7 %, бедната і парабкі — 31,2 %, заможныя сяляне, т. зв. кулакі,— 4,1 % ад усіх гаспадарак. Калгасы і саўгасы да канца 1920-х гадоў атрымлівалі крыху больш за 2 % с.-г. прадукцыі, хоць яны карысталіся прыярытэтнай увагай дзяржавы. Першыя трактары часцей паступалі ў саўгасы.

Большасць бядняцка-серадняцкіх гаспадарак перайшла на плужную апрацоўку зямлі. У 1927 саха выкарыстоўвалася толькі ў 14,1 тыс. гаспадарак. З 1927 тэмпы развіцця сельскай гаспадаркі запаволіліся, а то і знізіліся. З-за недастатковай кармавой базы скарацілася пагалоўе жывёлы. Зменшылася колькасць таварнай прадукцыі, асабліва ў земляробстве. Гэта ставіла пад пагрозу задавальненне патрэб індустрыялізацыі. Пад націскам парт. органаў больш маштабнай і уніфікаванай станавілася дзейнасць органаў улады і грамадскіх арганізацый, узмацнялася класавая накіраванасць у ідэалаг. уздзеянні на сялян, безагляднае шальмаванне т. зв. буржуазнай і дробнабуржуазнай культуры. Рабілася ўсё магчымае, каб ізаляваць заможнае сялянства і павысіць ролю беднякоў у жыцці В. Разбуралася рэлігійная культура. Гэта лінія праводзілася з дапамогай груп беднаты, дэлегацкіх сходаў сялянак, камітэтаў сялянскай грамадскай узаемадапамогі, камсамольскіх ячэек, шэфскіх ячэек (брыгад рабочых), сістэмы агульнаадукацыйнай школы, ліквідацыі непісьменнасці і сеткі культасветустаноў, у т. л. хат-чытальняў, чырвоных куткоў, перасоўных бібліятэк (на ліст. 1927 у В. БССР было 356 хатчытальняў і 1567 чырвоных куткоў).

Прымусовая *калектывізацыя* сельскай гаспадаркі прынесла В. новыя выпрабаванні і страты. Была ліквідавана праслойка заможных сялян і частка сераднякоў, згорнуты наём рабочай сілы ў сялянскіх гаспадарках. У сацыяльнай структуры В. перастала існаваць група парабкаў. Гаспадарчыя метады кіравання змяніліся адм.-каманднымі рэпрэсіўнымі метадамі, якія праводзіліся ўпаўнаважанымі органаў улады (25-тысячнікамі, супрацоўнікамі палітаддзелаў і інш.). Да 1940 аднаасобная гаспадарка як сацыяльная катэгорыя ў В. была па сутнасці вынішчана (за выключэннем Зах. Беларусі). Па-за калгасамі знаходзілася прыкладна 50 тыс. аднаасобных гаспадарак (каля 300 тыс. чал.), частка з іх не была звязана з сельскай гаспадаркай. Усталяваўся пануючы, т. зв. сацыяліст. уклад, або сацыяліст. спосаб вытворчасці. Большасць насельніцтва В. склалі калгаснікі (каля 3 млн. чал.), работнікі саўгасаў, *машынна-трактарных станцый* (МТС, да 50 тыс. чал.). Такая сац.-эканам. структура В. па сутнасці захавалася да цяперашняга часу.

Лёс бел. В. стаў непасрэдна звязаным з гісторыяй развіцця калгасаў і саўгасаў. На В. замацаваліся формы вядзення сельскай гаспадаркі, пры якіх вытв.-эканам. адзінкі адначасова з'яўляліся адм.-тэрытарыяльнымі, першаснымі ячэйкамі дзярж. улады, сродкам падпарадкавання насельніцтва існуючай сістэме ўлады. Гэтыя адзінкі карысталіся зямлёй і размяркоўвалі зямельныя ўгоддзі, інвентар і машыны, праводзілі дзярж. палітыку кіравання сельскай гаспадаркай, рэгулявалі індывідуальную гаспадарчую дзейнасць і інш. Доўгі час гэта сістэма кантралявала нават перамяшчэнне насельніцтва В. за межы гаспадаркі. Калгасы і саўгасы прадстаўлялі інтарэсы насельніцтва В. ў адносінах з дзярж. прамысл., гандл., фін. і інш. органамі. Зменшылася насельніцтва В. У выніку сац.-эканам. змен частка насельніцтва В. вызвалілася для работы ў іншых галінах вытворчасці, значная частка пакінула В. ў выніку экспрапрыяцыі маёмасці, рэпрэсій, была вывезена гвалтам на спецпасяленні. У канцы 1920-х — 1930-я гады толькі шляхам барацьбы з т. зв. *хутарызацыяй* было разрабавана каля 192 тыс. сялянскіх гаспадарак, не менш за 1,5 тыс. чал. былі зрушаны з родных мясцін, колькасць насельніцтва ў В. зменшылася на 1 млн. чал. Значна скараціўся сярэдні склад сям'і (да 4,3 чал. ў 1939 супраць 6,2 у 1925—26). Знізіліся с.-г. вытворчасць і жыццёвы ўзровень насельніцтва, у т. л. і ў В. Па аплаце працы калгаснікі адносіліся да найб. нізкааплатнай катэгорыі насельніцтва. Была ўведзена картачная сістэма размеркавання, насельніцтва В. кармілася з прысядзібных гаспадарак. У В. знізілася спажыванне хлеба, мяса і малака. Голад, які лютаваў па СССР у 1932—33, закрануў і бел. В., пераважна на ПнУ Беларусі. Цэны на шэраг с.-г. прадуктаў не апраўдвалі затрат на іх вытворчасць, былі ў 10—30 разоў ніжэйшыя за рыначныя. Разам з тым большасць жыхароў В. пачала карыстацца фабрычнымі адзеннем і абуткам. У канцы 1930-х гадоў вытв. паказчыкі грамадскіх гаспадарак дасягнулі ўзроўню дарэв. сялянскіх гаспадарак. У выніку пастаўкі дзяржавай машын і с.-г. інвентару, абагульнення сродкаў вытворчасці сялян, у т. л. раскулачаных, а таксама арганізацыі ў калгасах і саўгасах новага будаўніцтва, куплі жывёлы і інвентару, у В. была створана па сутнасці новая матэрыяльна-тэхн. і вытв. база. Калгасы звычайна былі ўладальнікамі простай тэхнікі (у 1939 яны мелі 11,3 % ад агульнай колькасці машын і інш. складанага інвентару), што ўзнімала ролю дзяржавы, МТС у фарміраванні калгаснага ладу. Змяніўся прафесійны склад жыхароў В., з'явіліся механізатары, кіруючыя кадры сярэдняга звяна. Па меры развіцця калгасаў і саўгасаў развівалася сістэма нар. адукацыі і культ.-асветных устаноў. У 1939 у БССР былі 3604 сельскія бібліятэкі, 1051 клуб, 1304 хаты-чытальні. Рост культ.-тэхн. ўзроўню павысіў паліт. і працоўную актыўнасць жыхароў В. Аднак фарсіраваныя сац. пераўтварэнні знізілі маральны ўзровень насельніцтва, фарміравалі яго пад уздзеяннем тэндэнцыйнай ідэйна-выхаваўчай работы партыі і падкантрольных ёй арганізацый, якія патрабавалі сляпога падпарадкавання. Усякая нязгода праследавалася. Стваралася атмасфера няспыннага пошуку класавых ворагаў з мэтай ачышчэння ад іх калгасаў, саўгасаў і МТС. У 1930-я гады ў ходзе т. зв. ўмацавання парт. радоў партарганізацыі БССР, у т. л. і ў В., страцілі больш за 40 % свайго складу. Былі знішчаны і рэпрэсіраваны многія жыхары В. Дзейнасць Саветаў і грамадскіх арганізацый у В., як і ўсюды, была пад непасрэдным уплывам партарганізацый. Многія жыхары мелі дачыненне да даносаў, жылі двайной мараллю. Далучэнне *Заходняй Беларусі* (дзе панавала індывідуальная сял. гаспадарка) да БССР у 1939 ускладніла сацыяльна-эканам. сітуацыю ў В. За кароткі час да 10 % насельніцтва зах. тэрыторый, пераважна вясковага, без суда і следства было дэпартавана ў раёны Паволжа, Сібіры, Комі АССР, Казахскай ССР і інш. У пасяўных плошчах 1940 на долю аднаасобных сялянскіх гаспадарак БССР прыпадала 36 % замест 3 % у 1938. Яны далі прыкладна $^1/_3$ усёй таварнай с.-г. прадукцыі. Масавая калектывізацыя, запланаваная ў зах. абласцях БССР, перапынілася Вял. Айч. вайной. Паводле афіцыйных звестак, за гады вайны матэрыяльныя страты ў сельскай гаспадарцы склалі 22,5 млрд. руб. (у цэнах 1941), страты насельніцтва бел. В.— 782,2 тыс. чал. Значную частку насельніцтва акупанты вывезлі ў Германію. Асабліва вял. страты былі сярод мужчын. Многія В. абязлюдзелі, больш за 620 В. былі спалены разам з жыхарамі. Усяго спалена і разбурана 9200 В., знішчана асн. частка матэрыяльна-тэхн. базы калгасаў, саўгасаў і МТС. Грамадская жывёлагадоўля была знішчана фактычна цалкам, 60 % сем'яў у В. страцілі свойскую жывёлу, 420,1 тыс. сем'яў засталіся без жылля.

Скарачэнне насельніцтва В. працягвалася і ў пасляваенны час за кошт урбанізацыі ў рэспубліцы і перамяшчэння яго пераважна ў інш. раёны СССР. Змяншаліся і памеры сем'яў. У 1949—50-я гады паскорана праведзена прымусовая калектывізацыя ў б. Зах. Беларусі (завершана ў 1953). Аднаасобныя сялянскія гаспадары практычна былі знішчаны на ўсёй Беларусі. У тым ліку шляхам шырокамаштабных дэпартацый людзей на спецпасяленне, у ссылку і інш., якія праводзіліся з часу вызвалення ад ням.-фаш. акупацыі па 1952. Усяго на Беларусі да пач. 1950-х гадоў ад рэпрэсій пацярпела прыкладна 3 млн. вяскоўцаў. Акрамя таго, улады дыскрымінавалі людзей, якія ў час вайны жылі

на акупіраванай тэрыторыі. На пач. 1950-х гадоў у асноўным завершаны працэс аднаўлення страт у сельскай гаспадарцы. За першую пасляваенную пяцігодку пабудавана 290,3 тыс. дамоў. У наступныя гады на В. праводзілася палітыка ўзбуйнення калгасаў, масавая рэарганізацыя калгасаў у саўгасы з адначасовым узбуйненнем В., ссяленнем у В. хутароў, згортваннем асабістых гаспадарак. Паводле перапісу насельніцтва 1959, у с.-г. вытворчасці працавала 76 % насельніцтва В., астатнія былі заняты ў прамысловасці, на транспарце, у сувязі і інш. Усе большая частка жыхароў В. канцэнтравалася ў саўгасах. У сувязі з індустрыялізацыяй вытворчасці і скарачэннем аб'ему лесанарыхтоўчых работ стала менш жыхароў, якія працавалі ў лясной гаспадарцы. Па-ранейшаму скарачалася колькасць насельніцтва ў В. ў сувязі з перамяшчэннем у раены новабудоўляў. У 1950 — пач. 1960-х гадоў з Беларусі выехала каля 900 тыс. чал., пераважна сельскай моладзі. Гэта прывяло да змяншэння прац. рэсурсаў В., пагаршэння іх узроставай структуры. У пач. 1959 у бел. В. жыло 5575 тыс. чал.—69 % усяго насельніцтва рэспублікі. Пазней маштабы міграцыі за яе межы зменшыліся, аднак колькасць насельніцтва В. па-ранейшаму скарачалася. Гэта стрымлівала павелічэнне аб'ему вытворчасці, рацыянальнае выкарыстанне творчага патэнцыялу людзей У канцы 1950 — пач. 1960-х гадоў намецілася запаволенне тэмпаў росту с.-г. вытворчасці.

У грамадскім жыцці В., як і ўсюды, пачалося ажыўленне, пазбаўленне страху і прыніжанасці, якія панавалі ў папярэднія гады Сав. улады. Аслабленне таталітарнай сістэмы пашырала магчымасці ў пошуках выйсця з крызісу. Да канца 1980-х гадоў развіцце В. адбывалася на фоне ўмацавання калгасаў і саўгасаў шляхам нівеліроўкі іх адрозненняў. Паралельна ішло магутнае нарошчванне матэрыяльна-тэхн. базы, вытв. фондаў. Была завершана механізацыя асн. і шэрага вытв. працэсаў у паляводстве. У жывелагадоўлі пачалі выкарыстоўваць індустрыяльную тэхналогію. У 1989 узровень механізаваных работ у свінагадоўлі і птушкагадоўлі склаў 94—99,7 % ад агульнага аб'ему працоўных затрат. На 69—73 % былі механізаваны падборка бульбы, раздача кармоў на фермах буйной рагатай жывелы. Аднак пераважная большасць працаўнікоў грамадскай вытворчасці была занята на немеханізаваных аперацыях (у 1985—59,7 % усіх рабочых саўгасаў і 63,5 % калгаснікаў). Да мінімуму знізілася значэнне рабочай жывелы (0,3 % энергетычных магутнасцей у 1986 супраць 5,4 % у 1960). Аднačасова ў адпаведнасці з «ленінскімі нормамі» аб збліжэнні дзвюх форм сацыяліст. уласнасці (агульнанароднай і калгасна-кааператыўнай) паскорана развіваўся працэс канцэнтрацыі і абагульвання с.-г. вытворчасці на аснове міжгаспадарчай кааперацыі і аграрна-прамысловай інтэграцыі, быў утвораны аграпрамысловы комплекс. На гэтай аснове абагульвалася не толькі калгасна-кааператыўная, але і агульнанародная ўласнасць, чым нібыта ствараліся ўмовы для ўсебаковага развіцця абедзвюх форм сацыяліст. уласнасці, збліжэння іх асн. уласнікаў — рабочага класа і калгаснага сялянства. Уласнасць дзяржаўна-калгасных аб'яднанняў разглядалася як пераходная форма да адзінай агульнанароднай (камуністычнай) уласнасці і разам з тым істотнай умовай станаўлення бяскласавага грамадства. У 1976 на Беларусі дзейнічала 185 міжгаспадарчых прадпрыемстваў і арг-цый, у 1987—374, у 1989—309. Усе гэтыя захады грунтаваліся на хутка растучым аб'еме капітальных укладанняў і асн вытворчых фондаў. Аднак іх спажыванне павялічвалася хутчэй, чым прырост вытворчасці прадукцыі і прадукцыйнасці працы. У выніку зніжалася эфектыўнасць с.-г. вытворчасці і зацікаўленасць яе працаўнікоў у развіцці грамадскай вытворчасці. Сялянская праца стала непрэстыжнай. У працэсе т. зв. «рассяляньвання», якое праводзілася ў краіне на працягу дзесяцігоддзяў, змянялася псіхалогія жыхароў В., сфарміраваўся новы тып працаўніка. Для яго, у прыватнасці, характэрна прывычка працаваць і жыць у калектыве, слепа кіравацца распараджэннямі кіраўніцтва, адсутнасць эканамічнага мыслення, вузкая спецыялізацыя і інш. Пачуцце гаспадара зямлі, адносіны да яе як да карміцелькі выраджаліся ва ўтылітарны падыход. У пач. 1989 з 2,5 тыс. калгасаў і саўгасаў Беларусі 1350 вялі гаспадаркі толькі дзякуючы дзярж. выплатам за нізкую рэнтабельнасць і непрыбытковасць. Пры павелічэнні плошчы асушаных зямель у 1940—85 на 2689,5 тыс. га з севазвароту выпала 1390 тыс. га плошчаў, у сярэдзіне 1980-х гадоў $^{2}/_{3}$ меліяраваных зямель не давалі праектнай ураджайнасці, не вярнулі затрачаных сродкаў. Буйнамаштабнае кааперaванне і канцэнтрацыя вытворчасці праводзіліся аднačасова з памяншэннем колькасці насельніцтва В., якое ў 1959—89 скарацілася на 2054 тыс. чал і склала 3521 тыс. чал. Удзельная вага сельскага насельніцтва знізілася да 35 %, каля $^{1}/_{3}$ яго складаюць пенсіянеры. Зменшыліся колькасць і ўдзельная вага занятых у с.-г. вытворчасці (у 1984—1094,5 тыс. супраць 1496,9 тыс. чал. у 1960). У 1985 толькі 30 % жыхароў В. былі заняты ў грамадскім сектары сельскай гаспадаркі. У выніку змяншэння колькасці насельніцтва ў В. не хапала работнікаў масавых прафесій, найперш механізатараў, практыкавалася выкарыстанне часовых работнікаў з гараджан. Гэта тармазіла павышэнне эфектыўнасці с-г. вытворчасці, удасканаленне ўмоў працы і побыту на В. Аднак больш стала жыхароў, якія займаюцца высокакваліфікаванай працай, з'явілася больш за 150 новых прафесій. У 1960—85 колькасць механізатараў у В. павялічылася з 83,5 да 211,3 тыс. чал. За гэты час удзельная вага прадстаўнікоў гэтай прафесіі ў агульнай колькасці працоўных В. вырасла з 4,7 % да 17,9 % у калгасах і з 7,7 % да 20,7 % у саўгасах. Удзельная вага калгаснікаў, якія не маюць прафесіі, зменшылася на $^{1}/_{3}$. Колькасць спецыялістаў з вышэйшай і сярэдняй спец. адукацыяй у с.-г. вытворчасці павялічылася з 37,9 тыс. ў 1970 да 128,8 тыс. чал. у 1989. Практычна ўсе работнікі вышэйшага і сярэдняга кіруючага звяна маюць адпаведную адукацыю Аднак у калгасах і саўгасах колькасць кіраўніцкага апарату непамерна вялікая (на канец 1980-х гадоў больш за 100 тыс. чал.)

З мэтай пераадолення негатыўных з'яў у В. з канца 1980-х гадоў на Беларусі праводзіцца аграрная рэформа. Дапускаецца вольны выбар форм гаспадарання пры роўных умовах іх функцыяніравання. Пачаўся працэс пераўтварэння калгасаў і саўгасаў, узнікаюць сялянскія (фермерскія) гаспадаркі і с.-г кааператывы, адноўлена *арэнда зямлі* На студз. 1993 у бел В. было больш як 2 тыс фермераў. Змяніўся парадак матэрыяльна-тэхн. забеспячэння, фінансавання, крэдытавання, форм арганізацыі с.-г. вытворчасці.

Ствараюцца магчымасці для павышэння эканам. і сац. ролі чалавека працы Відавочна, што калгасы і саўгасы захоўваюць вядучую ролю ў с-г. вытворчасці. Мяркуецца, што па меры станаўлення і развіцця альтэрнатыўных форм гаспадарання функцыі калгасаў і саўгасаў на В зменяцца.

На аснове сац. змен у В. іншымі сталі ўмовы побыту. З канца 1920-х гадоў пачалася забудова В. па спец. распрацаваных праектах. У 2-й пал. 1930-х гадоў на аснове гэтых праектаў на Беларусі закладзена некалькі соцень новых калгасных В., найперш у раенах з хутарскім рассяленнем. У будаўніцтве пашыралася выкарыстанне цэглы, саламяны дах мянялі на шыферны, бляшаны. Павялічвалася колькасць клубаў, школ, магазінаў, мед. устаноў, грамадскіх лазняў. Скарачалася колькасць рэлігійна-культавых аб'ектаў, іх кансервавалі, прыстасоўвалі для свецкіх патрэб, разбуралі. Такім чынам было знішчана і пашкоджана мноства помнікаў гісторыі і дойлідства. Шырокі размах атрымала будаўніцтва вытв. і грамадскіх пабудоў і жылля, пракладка дарог з цвердым пакрыццем. Усе большая колькасць В. забудоўвалася па тыпавых або спец. праектах цэнтр. сядзібы саўгасаў імя 60-годдзя КПБ (в. Малеч) Бярозаўскага, «Сялюты» (в. Акцябрская) Віцебскага, «Леніна» (в. Леніна) Горацкага, у калгасах «Прагрэс» (в. Верцялішкі) Гродзенскага, «Новы быт» (в. Крупіца) Мінскага, «Савецкая Беларусь» (в. Новая Расна) Камянецкага р-на і інш. У В. ствараліся грамадскія цэнтры з адм. будынкамі, бібліятэкамі, клубамі, школамі, спарт. цэнтрамі, прадпрыемствамі гандлю і быт. абслугоўвання, поштай, тэлеграфам. Шырока вялося жыллевае будаўніцтва. У 1966—89 у В. Беларусі пабудавана 33,9 млн $м^2$ жылля (45,7 % усяго жыллевага фонду В.). У будаўніцтве ўсе шырэй выкары-

*РСДРП*. Праф. (1935), засл. дзеяч навукі РСФСР (1947). Скончыў Кіеўскі ун-т (1898). У 1894—98 удзельнік с.-д. руху ў Кіеве, адзін з кіраўнікоў групы «Рабочая справа» і кіеўскага «Саюза барацьбы за вызваленне рабочага класа». Рэдактар першых нумароў нелегальнай с.-д. «Рабочей газеты», прадстаўніком якой быў на І з'ездзе РСДРП. У крас 1899 арыштаваны, праз некалькі месяцаў выпушчаны пад нагляд паліцыі. У 1902 сасланы на 3 гады ў Сібір. Пасля ссылкі ад паліт дзейнасці адышоў. У 1924 арганізаваў Ін-т прафес. хвароб (Петраград) Аўтар прац па прафес. гігіене і сац. страхаванні.

*М В Біч*

**ВІДЗЕНІЧЫ**, Відунічы, Відзінічы, веска ў Аленавіцкім сельсавеце Талачынскага р-на, у калгасе «Авангард». За 38 км на ПнУ ад Талачына. 28 двароў, 59 ж (1990).

Узнікла як феад маентак (двор) на тэр Друцкага княства Упершыню ўпамінаецца як «село Видиничи» ў запісе, зробленым кн Васілем Міхайлавічам Друцкім на старонцы Друцкага евангелля (1-я пал. 14 ст.). Пазней уваходзіла ў тую частку Друцкага княства, якую атрымаў пры падзеле ў 1-й пал. 15 ст. кн. Рыгор Сяменавіч Друцкі Яго ўнук, кн. Раман Васілевіч Друцкі-Любецкі, пакінуў 5 сыноў, з якіх Дзмітрый меў прозвішча Друцкі-Відуніцкі (упершыню згадваецца ў 1528, памер у 1558). Каля 1545 ен прадаў сваю частку В. малодшаму брату Раману Пазней маенткам валодаў іх пляменнік Януш Багданавіч Друцкі-Любецкі, потым — нашчадкі апошняга У 1667 — маентак кн Мікалая Любецкага, 23 дымы, у 1703 быў у закладзе ў П Лянеўскага, у 1743 належаў пані Сяняўскай. Маентак уваходзіў у Аршанскі пав, пасля далучэння Усх. Беларусі ў 1772 да Расійскай імперыі — у складзе Копыскага пав. Магілеўскай губ. У 1785 В.— цэнтр маентка І. В. Голчыца (ці Галоўчыца), які ахопліваў 5 весак (Коззі Горкі, Лаўрынава, Станаўка, Бордзіна, Раманаўка) і налічваў 69 двароў, 536 душ Пры гэтым ва ўласна В жылых двароў не было. З 1861 — у Аленавіцкай вол. Аршанскага пав Апошнімі яго уладальнікамі на пач 20 ст. былі памешчыкі Л. Камароўскі і А. Шчыт З 1924 В у Талачынскім р-не. У Вял. Айч вайну з чэрв. 1941 па чэрв. 1944 акупіраваны ням.-фаш захопнікамі.

*В Л Насевіч*

**ВІДЗСКІ РАЁН.** Існаваў у БССР у 1940—60. Утвораны 15.1.1940 у складзе Вілейскай вобл. Цэнтр — г п Відзы. Пл. раена 900 км² 394 населеныя пункты (1947) 12 10.1940 раен падзелены на 11 сельсаветаў. Абалеўскі, Блажышкаўскі, Богінскі, Далекаўскі, Дрысвяцкі, Дуброўскі, Казянскі, Мілашкаўскі, Расінельскі, Сястрэнецкі і Ярканцаўскі. З 20.9 1944 В. р. знаходзіўся ў складзе Полацкай, з 8.1.1954 — Маладзечанскай абл 16 7.1954 скасаваны сельсаветы Дуброўскі, Мілашкаўскі, Расінельскі, 27.3 1959 — Блажышкаўскі, Богінскі і Сястрэнецкі, іх тэр. размеркавана паміж суседнімі сельсаветамі ў межах раена. В. р. скасаваны 20.1.1960, яго тэр увайшла ў склад *Браслаўскага раена*

*М І Камінскі*

Відзы. Магіла Т Ваўжэцкага 1950-я гады

**ВІДЗЫ**, гарадскі паселак у Браслаўскім р-не. За 41 км ад Браслава, 30 км ад чыг. ст. Гадуцішкі на лініі Лынтупы — Варапаева, на аўтадарозе Паставы — Даўгаўпілс 2184 ж. (1990). Вядомы з сярэдзіны 15 ст Вялікі кн Жыгімонт Кейстутавіч (1432—1440) аддаў землі паміж рэкамі Дзісна і Дрысвята, якія зваліся Ловішчам, братам Доўгірду, Даўкшу і Нарушу. Нарушэвічы заснавалі мястэчка В. Частка мястэчка і навакольных зямель належала віленскім біскупам. У розныя часы тут мелі ўладанні і пабудовы бернардзінцы, канонікі-рэгулярныя, канонікі-лютэранскія, дамініканцы. Першы касцел пабудаваны ў 1481, пры ім існаваў шпіталь. Дзейнічалі таксама праваслаўная, стараверская, магаметанская, іудзейская і пратэстанцкая абшчыны. Частка В належала свецкім асобам З 16 ст. ў складзе Браслаўскага пав. Віленскага ваяв. У 1554 відзскія землі набыты віленскім ваяводам А. Гаштольдам, у 1629 В. сталі ўладаннем *Пацаў* Гетман польны літ. ваявода віленскі М К. Пац адпісаў свае відзскія ўладанні канонікам-рэгулярным з мэтай завяршэння будаўніцтва касцела св Пятра і Паўла ў Вільні У пач 18 ст езуіты адкрылі ў В. касцел, рэзідэнцыю, школу. У інвентары за 1731 апісана частка В., што належала біскупу Я Зяновічу, названы вуліцы Рынічная, Дворная, Казіная, Віленская, адзначаны рамеснікі краўцы, цесляры, шаўцы, каваль, кушнер, шынкары. Паводле люстрацыі 1794, у В. 182 дамы, 1270 жыхароў, 50 дамоў належала Ваўжэцкім, якія таксама валодалі значнымі землямі вакол мястэчка. Найб. вядомы прадстаўнік гэтага роду — Т. *Ваўжэцкі*, паплечнік Т. *Касцюшкі*, яго пераемнік на пасадзе галоўнакамандуючага ўзбр. сіламі паўстання 1794, які на ўласныя сродкі ўзброіў у В. атрад з 300 паўстанцаў. У 1793 сойм ухваліў перанос з Браслава ў В. месца сеймікавання, судовых устаноў, архіва. Пасля пажару 1794 у Браславе В.— цэнтр Браслаўскага пав. З 1795 у складзе Расіі. Напярэдадні Айч. вайны 1812 у В. размяшчаўся 30-тысячны гв. корпус пад камандаваннем вял князя Канстанціна Паўлавіча. 21—22 ліп. тут месціліся гал. кватэра Аляксандра І і стаўка камандуючага 1-й арміі Барклая дэ Толі. 25—30 ліп. ў В. была гал. кватэра І. Мюрата. 28 ліст. ў В. адбыўся бой паміж адступаючымі французамі і рус. атрадам. Згарэла 116 дамоў мяшчан. У 1825 у В. 822 ж., 498 дамоў, пав. школа, 2 шынкі, лазня. Будучы студэнтам Віленскага ун-та, у В. да свайго дзядзькі Маеўскага прыязджаў А. Міцкевіч. У пач. 1820-х гадоў тут жыў дзекабрыст А Поджыа. Пасля пажару 24 8.1835 цэнтр павета з В. перанесены ў Езяросы (пазней Новааляксандраўск) З 1843 В.— заштатны горад Ковенскай губ., цэнтр воласці. Размяшчэнне на паштовым тракце Дзвінск — Вільня спрыяла хуткай адбудове горада У 1860 у В 3498 ж., 248 дамоў; касцел, капліца, сінагога, 5 яўрэйскіх малітоўных дамоў, мячэць, гар. дума, мужчынскае і жаночае нар. вучылішчы, паштовая станцыя, аптэка. Тры разы на год праводзіліся кірмашы, найб. вядомыя конскія і гусіныя (у год прадавалася да 100 тыс гусей). У канцы 19 ст. ў горадзе вуліца Рыначная, 2 плошчы (Конскі і Салявы рынкі). У 1893 у В 5800 жыхароў У 1-ю сусв. вайну акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, у час баявых дзеянняў амаль поўнасцю разбураны. Сав. ўлада ўстаноўлена ў снеж 1918. Дзейнічаў валасны савет рабочых і сял. дэпутатаў. У жн. 1919 акупіраваны войскамі бурж. Польшчы, у ліп. 1920 вызвалены Чырв. Арміяй Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 В адышлі да Польшчы, заштатны горад Браслаўскага пав Віленскага ваяв. Дзейнічала падп. ячэйка КПЗБ. З 1939 у складзе БССР, з 15 1. 1940 гар паселак, раенны цэнтр Вілейскай вобл 27.6.1941 акупіраваны ням-фаш захопнікамі, якія загубілі ў В. і раене 4154 чал. Дзейнічала падп камсамольска-маладзежная група К. Я Бялова, на тэр раена — падп. райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ, партыз. брыгада «Спартак», выдавалася падп. газ. «Красное знамя». 2 7.1944 партызаны брыгады «Спартак» разам з літ. партызанамі атрада «Жальгірыс» з боем занялі В. і 2 дні іх утрымлівалі Вызвалены 8 7.1944 часцямі 6-й гв арміі 1-га Прыбалтыйскага фронту ў ходзе Шаўляйскай аперацыі 1944 З 1944 раенны цэнтр Полацкай, з 1954 Маладзечанскай абл. З 1960 гар. паселак у Браслаўскім р-не Віцебскай вобл У 1969—26 тыс ж. Побач з В веска *Відзы-Лаўчынскія*, існавала таксама некалькі прадмесцяў, гісторыя якіх цесна звязана з гісторыяй мястэчка. Захавалі-

ся сядзіба і парк канца 18 — пач. 19 ст. В.-Альбрэхтаўскія (пазней в. Рэгуляры, зараз не існуе) лічыліся дзярж. дваром, пасля — уладанне канонікаў-рэгулярных. Відзскі двор (сучасная в Падварынка) — уладанне віленскіх біскупаў, належалі таксама выхадцам з Грэцыі Пізані, сярод якіх былі ўдзельнікі паўстання 1863.

У В. цагельны з-д, млын, хлебазавод, прадзільны цэх, лясніцтва, сярэдняе прафесійна-тэхн. вучылішча механізацыі сельскай гаспадаркі, сярэдняя і музычная школы, Дом культуры, 2 б-кі, бальніца 2 брацкія магілы сав. воінаў і партызан, магіла Т. Ваўжэцкага з памятнай плітой, Троіцкі касцёл, стараверская царква (абодва пач. 20 ст.). У наваколлі захаваліся жалезабетонныя ўмацаванні 1-й сусв. вайны.

*Літ.:* Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: Віцебская вобл. Мн., 1985. С. 141—144; Федорук А. Т. Садово-парковое искусство Белоруссии. Мн., 1989. С. 141—144; Посох Г. Видзы: (Опыт ист.-стат. описания). Ковна, 1895: Hedemann O. Historja powiatu Brasławskiego. Wilno, 1930. *К. С. Шыдлоўскі.*

**ВІ́ДЗЫ-ЛАЎЧЫ́НСКІЯ,** вёска ў Відзскім сельсавеце Браслаўскага р-на, каля групы невял. азёр Дворнае, Лазенкі (Смердзіс), Чорнае, Белае. За 44 км ад Браслава, 34 км ад чыг. ст. Гадуцішкі (Літва). Цэнтр калгаса «Уперад». 390 ж., 154 двары (1990). У гіст. крыніцах упершыню ўпамінаецца ў 1586 пад назвай Ловішча як уладанне лоўчага літ. Нарушэвіча, з 1775 належала Ваўжэцкім. У канцы 18 — пач. 19 ст. на беразе воз. Дворнае створаны сядзібна-паркавы ансамбль, які ўключаў невял. аднапавярховы драўляны на мураваным цокалі сядзібны дом, акружаны маляўнічым паркам (пл. 5 га). На аснове 4 серавадародных крыніц, што сцякалі ў возера Смердзіс, у В.-Л. з пач. 19 ст. дзейнічаў курорт «Лазенкі». У 1860-я гады тут было 60 ваннаў, працавалі 2 урачы, некалькі чалавек сярэдняга медперсаналу. З канца 19 ст. курорт у заняпадзе. У В.-Л. правёў апошнія месяцы жыцця адзін з кіраўнікоў паўстання 1794 у Польшчы, на Беларусі і ў Літве ген. Т. Ваўжэцкі. Маёнтак неаднаразова наведваў польскі паэт А. Міцкевіч — у той час студэнт Віленскага ун-та. З сярэдзіны 19 ст. В.-Л. — уладанне роду Мінейкаў (разам з фальваркам Феліцыянава 1680 дзес. зямлі). З 1855 у вёсцы працаваў бровар (у 1900—4 рабочыя, паравая машына), пры дарозе Відзы — Вільня стаяла карчма. У 1859 у В.-Л. 34 жыхары, сядзібны дом, вадзяны млын. З 1949 цэнтр калгаса «Бальшавік», з 1965 у складзе саўгаса «Камуніст». У 1970 у В.-Л. 389 жыхароў, 119 двароў. Васьмігадовая школа, б-ка, клуб, фельчарска-акушэрскі пункт, аддзяленне сувязі. Захаваліся помнікі: сядзібны дом і парк канца 18—пач. 19 ст., гасп. будынкі і будынак бровара 19 — пач. 20 ст.

*Літ.:* Hedemann O. Historja powiatu Brasławskiego, Wilno, 1930. *К. С. Шыдлоўскі*

**ВІЖ,** службовая асоба ў ВКЛ. Назначаўся *старостам* або інш. прадстаўніком улады ці феадалам для ўдзелу і нагляду за правільнасцю судаводства ў судах. Даследаваў акалічнасці спраў, даваў па іх заключэнні суду ці сведчыў пэўныя факты.

**«ВІ́КНА»,** грамадска-палітычны і літаратурна-мастацкі часопіс, орган літаратурнай групы «Горна» рэв. пісьменнікаў Зах. Украіны. Выдаваўся штомесячна ў ліст. 1927 — вер. 1932 у Львове на укр. мове. Выдавец і адказны сакратар В. Бабінскі. Інфармаваў пра грамадска-паліт. і культ. падзеі ў краінах Еўропы. Паведамляў пра літ. жыццё ў Сав. Беларусі, наведанне Харкава бел. пісьменнікамі ў 1928 (Я. Купала, Я. Колас, Ц. Гартны, М. Зарэцкі, М. Чарот, апублікаваў іх выступленні 10.2.1928 на вечары ў Доме літаратара імя В. Блакітнага), надрукаваў тэкст пратэсту бел. пісьменнікаў супраць фаш. палітыкі ў Зах. Беларусі (1931, № 6). Часопіс змяшчаў маст. творы М. Бажана, Я. Галана, А. Гаўрылюка, М. Рыльскага, С. Тудара, У. Лугаўскога, У. Маякоўскага, М. Святлова, надрукаваў апавяданне «Кірмаш» М. Чарота (пер. М. Калінчука; 1930, № 10) і інш. Асобныя нумары «В.» траплялі ў Зах. Беларусь, дзе часопіс меў сваіх карэспандэнтаў Я. Чабора і А. Грамака. Закрыты польскімі ўладамі.

*Літ.:* Вікна, 1927—1932: Сіст. покажчик змісту. Львів, 1966. *С. С. Панізнік.*

Герб Вілейкі. 1796.

**ВІЛЕ́ЙКА,** Вялейка, горад на р. Вілія (прыток Нёмана), цэнтр Вілейскага р-на. За 103 км на ПнЗ ад Мінска. Чыг. станцыя на лініі Маладзечна — Полацк. 29,1 тыс. жыхароў (1993).

Вядома з 1599 як мястэчка, цэнтр Вілейскага староства Ашмянскага пав. Віленскага ваяводства ВКЛ. Паводле гіст. сведчанняў, раней В. мела назву Стары Куранец, у 16 ст. належала роду Куранецкіх. Знаходзілася ў доўгачасовым водкупе феадалаў Пацаў (Пацеяў). Сойм 1773—75 зацвердзіў правa валодання В. гар. суддзі, паслу пінскаму І. Куранецкаму. У выніку 2-га падзелу Рэчы Паспалітай 1793 В. ў складзе Расійскай імперыі. Кацярына II падаравала яе мінскаму ген.-губернатару Карнееву. З 1795 В.— цэнтр *Вілейскага павета*, 22.1.1796 зацверджаны герб горада: чырвонае поле шчыта перасякае выява ракі з суднам і залатым коласам. Развіццю В. спрыяла гандл. суднаходства. Па Віліі ў Зах. Еўропу вывозілі дрэва, лён, пяньку, збожжа, воск. У горадзе штогод адбываліся 4 кірмашы, да канца 19 ст. гандаль зменшыўся. Вял. страты гораду прычынілі пажар 1810 і Айч. вайна 1812. У час нац.-вызв. паўстання 1830—31 у горадзе 8.4—1.9. 1831 дзейнічаў паўстанцкі к-т на чале з Радзішэўскім. Паўстанне задушана царскім войскам пад камандаваннем Саф'янава. У час паўстання 1863—64 у павеце дзейнічаў паўстанцкі атрад В. І. Козела (разбіты ў сутычцы пад Уладыкамі). У сярэдзіне 19 ст. ў В. быў маёнтак феадала з палацам, 2 турмы; у 1860—царква, 3 малітоўныя дамы, 3 капліцы, шпіталь, бровар, 14 крам, 272 дамы, у 1861—2931 жыхар, у 1880—3450, у 1897—3560 жыхароў, з іх 40,9 % пісьменных, 2 навуч. установы, шпіталь. Горад быў забудаваны пераважна драўлянымі аднапавярховымі дамамі, вуліцы падзялялі горад на кварталы. У 1904 праз В. прайшла чыгунка. У рэвалюцыю 1905—07 у горадзе дзейнічалі рэв.-ся-

Сядзібны дом канца 18 — пач. 19 ст. ў в. Відзы-Лаўчынскія Браслаўскага р-на.

лянскі к-т, с.-д. група, звязаная з Віленскім к-там РСДРП. У час 1-й сусв. вайны ў В. дыслацыраваўся корпус рус. 10-й арміі Зах. фронту. 8(21).11.1917 устаноўлена Сав. ўлада, створаны ВРК. З лютага да 16.12.1918 В. акупіравана германскімі войскамі, з ліп. 1919 да 10.7.1920— войскамі Польшчы. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 В. ў складзе Зах. Беларусі адышла да Польшчы, горад быў цэнтрам павета ў Віленскім ваяв. У В. дзейнічалі падп. райкомы КПЗБ і КСМЗБ, арг-цыі Бел. сялянска-работніцкай грамады (26.8.1926 у В. адбыўся пав. з'езд грамады), Т-ва бел. школы (13.5.1928 тут адбыўся пав. з'езд). У рабоце з'ездаў удзельнічалі Р. Р. Шырма, А. М. Уласаў; адным з кіраўнікоў грамадска-дэмакр. руху на Вілейшчыне быў Ф. І. *Валынец*. У горадзе была адна з найбуйнейшых турмаў, у якой трымалі палітзняволеных. У арганізаваным Бел. нар. доме вялася паліт.-асветная работа, пры ім існаваў драматычны тэатр (кіраўнік А. І. Каляда). Спектаклі ставіліся ў будынку пажарнай аховы (цяпер гіст.-краязнаўчы музей). У 1939 у В. 7,5 тыс. жыхароў. З канца 1939 В. ў складзе БССР; тут дзейнічала часовая пав. ўправа. З 4.12.1939 цэнтр *Вілейскай вобласці*. Выходзіла абл. «Сялянская газета», у рэдакцыі якой у 1939—41 працавалі М. Танк, М. Машара, Н. Арсеннева, Е. Путрамант, М. Шыла. У Вял. Айч. вайну з 26.6.1941 да 2.7.1944 В. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі тут больш за 6 тыс. сав. грамадзян; горад амаль поўнасцю разбураны. Дзейнічалі падп. абкомы і гаркомы КП(б)Б і ЛКСМБ, *Вілейска-Куранецкае патрыятычнае падполле*. Увосень 1943 вял. страты фаш. гарнізону ў В. (3 тыс. салдат і афіцэраў) нанеслі партызаны 1-й Антыфашысцкай партыз. брыгады. Вызвалена часцямі 3-га Бел. фронту ва ўзаемадзеянні з партызанамі ў ходзе *Мінскай аперацыі 1944*. З вер. 1944 В. ўваходзіла ў Маладзечанскую вобл., са студз. 1960 у Мінскай вобл. У 1959 у В.—8,2, у 1965—10,8, у 1970—12,2, у 1989—25 тыс. жыхароў. Выходзіць газ. «Шлях перамогі». Працуюць з-ды «Зеніт», аўтарамонтны, будаўнічых дэталей, камбікормавы, масла- і хлебазаводы, дрэваапрацоўчы камбінат, цэх Маладзечанскай мэблевай ф-кі, харчкамбінат, участак рыбакамбіната «Нарач», лясгас, гідраметэастанцыя. У В. філіял Мінскага палітэхнікума, 3 прафтэхвучылішчы, 4 сярэднія, дзіцяча-юнацкая спартыўная і музычная школы, школа-інтэрнат, міжшкольны навуч.-вытв. камбінат, 10 дашкольных устаноў, Дом школьнікаў, Дом культуры, 3 бібліятэкі, *Вілейскі гісторыка-краязнаўчы музей*, 2 клубныя ўстановы, бальнічны комплекс, Палац мастацтваў імя Н. Ю. Сілівановіча, бюро падарожжаў і экскурсій, станцыя юных натуралістаў. Брацкая магіла сав. воінаў і партызан, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, магілы ахвяр фашызму.

Да арт. **Вілейка**. Крыжаўзвіжанскі касцёл.

Да арт. **Вілейка**. Царква. 1816.

Помнікі: Вызвалення, землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. Захаваліся помнікі архітэктуры 19 — пач. 20 ст.: царква, Крыжаўзвіжанскі касцёл, будынкі бальніцы, гімназіі, турмы, жылы дом.

*Літ.*: Материалы по истории и географии Дисненского и Вилейского уездов Виленской губернии. Витебск, 1896; Каханоўскі Г. А. Вілейка: Гіст.-экан. нарыс. Мн., 1974; Булгак В. А., Кебец Л. И., Клемантович Н. Н. Вилейка: Ист.-экон. очерк. Мн., 1984. *Г. А. Каханоўскі.*

**ВІЛЕ́ЙКА**, вёска ў Бярозкаўскім сельсавеце Докшыцкага р-на. За 40 км на Пд ад Докшыц, 51 км ад чыг. ст. Параф'янава. 60 двароў, 122 жыхары (1992).

Узнікла на тэр. стараж. Харэцкай вол.— той яе часткі, якая ў пач. 16 ст. перайшла ад кн. С. А. Чартарыйскага да яго зяця В. Тышкевіча (да 17 ст. наз. Велейка). Упамінаецца сярод уладанняў апошняга ў 1567 і 1570. Паводле завяшчання Тышкевіча В. адышла яго дзецям ад другога шлюбу — Астафію і Аляксандры. У 1594 належала Аляксандры і яе мужу М. Язлавіцкаму, у 1600 — Х. Дыбоўскаму, потым — Пацам. У 1667— цэнтр маёнтка К. Паца, які ахопліваў 80 дымоў. У 1702 у В. згадваецца царква Праабражэння Гасподняга, на карысць якой М. Пац запісаў 2,5 валокі зямлі. Ад Пацаў у 18 ст. В. перайшла ў «заставу» (заклад) Віленскаму кляштару візітак. Уваходзіла ў Мінскі пав. У 1793 далучана да Расійскай імперыі. У 1797 — цэнтр маёнтка візітак, які ахопліваў 9 вёсак і 2 шляхецкія засценкі, налічваў 87 двароў, у т. л. сяло В. з 27 дварамі, царквой, млынам і карчмой. Пасля паўстання 1830—31 В. канфіскавана разам з інш. каталіцкімі ўладаннямі. Уваходзіла ў Докшыцкі, з 1797 у Барысаўскі пав. Мінскай губ., з 1861 — у Вітуніцкую вол. таго ж павета. У канцы 19 ст. ў В. 72 двары, 429 жыхароў, царква, школа. З 17.7.1924 вёска В. ў Бягомльскім, з 20.1.1960 у Докшыцкім, з 25.12.1962 у Глыбоцкім, з 6.1.1965 у Докшыцкім р-нах. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія 24.6.1943 загубілі 39 яе жыхароў. Уваходзіць у склад саўгаса імя А. І. Чарныша. Пачатковая школа, б-ка, фельчарска-акушэрскі пункт, магазін. Курган Памяці ахвяр фашызму.

*В. Л. Насевіч.*

**ВІЛЕ́ЙСКАЕ ПАРТЫЗА́НСКАЕ ЗЛУЧЭ́ННЕ** ў Вялікую Айчынную вайну. Створана ў ліп.— жн. 1943 *Вілейскім падпольным абкомам КП(б)Б*, узначальваў ваенна-аператыўны аддзел абкома.

Кіруючы склад: 1-ы сакратар Вілейскага падп. абкома КП(б)Б І. Ф. *Клімаў*, нач. ваенна-аператыўнага аддзела Ф. Р. *Маркаў*. Уключала 3 зоны: Паўд.-Усх., Цэнтральную і Паўночную; у кожнай створаны аператыўныя групы падп. абкомаў КП(б)Б і ЛКСМБ, замацаваны партыз. брыгады і атрады.

На дзень злучэння з Чырв. Арміяй (ліп. 1944) яднала 18 партыз. брыгад: 4-ю Беларускую, «За Радзіму», «За савецкую Беларусь», імя Будзённага, імя Варашылава, імя Гастэлы, імя Даватара, імя Жукава, імя Калініна, імя Кутузава, імя Ракасоўскага, імя Суворава 1-ю, імя Суворава 2-ю, імя Фрунзе, імя ЦК КП(б)Б, імя Леніна, «Кастрычнік», «Спартак»; 5 асобна дзейных атрадаў: агітацыйны імя Горкага, «Баец», імя Катоўскага, імя Панамарэнкі, імя Суслава; усяго каля 12 тыс. партызан. Камандзірам партыз. атрадаў А. С. *Азончыку*, А. І. *Валынцу*, партыз. брыгады Ф. Р. Маркаву, нам. камісара партыз. атрада Г. І. *Маслоўскай*, камісару брыгады П. М. *Машэраву* прысвоена званне Героя Сав. Саюза. *І. Ф. Клімаў.*

**ВІЛЕ́ЙСКА-КУРАНЕ́ЦКАЕ ПАТРЫЯТЫ́ЧНАЕ ПАДПО́ЛЛЕ** ў Вялікую Айчынную вайну. Дзейнічала з ліп. 1941 да ліп. 1944 у г. Вілейка і вёсках Куранецкага р-на. Адзін з арганізатараў — А. І. *Валынец*. З 1943 дзейнічала пад кіраўніцтвам Вілейскіх падп. абкома і гаркома КП(б)Б, абкома і гаркома ЛКСМБ, Куранецкіх падп. райкомаў

КП(б)Б і ЛКСМБ. У снеж. 1941 у в. Халапы адбылася нарада кіраўнікоў падп. груп, на якой была створана Вілейска-Куранецкая падп. арг-цыя і выбраны к-т, у склад якога ўвайшлі М. М. Мацюкевіч (кіраўнік), І. І. Баслык (нам. кіраўніка), Ю. М. Балашоў, М. М. Баслык, З. П. Бічун, Б. Л. Дзіменштэйн, У. Ф. Субач, І. А. Шырочын. Арганізацыя аб'ядноўвала 75 чал., 14 груп, з іх 5 у Вілейцы (кіраўнікі Балашоў, І. І. Баслык, У. М. Жаўтко, Л. В. Чыжэўская, М. Н. Валынец), у в. Більцавічы (В. А. Рогач), в. Воўкаўшчына (К. А. Хаванскі), в. Куранец (Мацюкевіч, са снеж. 1941 І. Б. Айнбіндэр), в. Талуць (М. Я. Кручонак), в. Урэчча (А. І. Ахрэм), в. Халапы (Бічун), в. Чабатары (В. І. Чабатар). Падпольшчыкі трымалі сувязь з партыз. брыгадай «За Савецкую Беларусь», запісвалі па радыё зводкі Саўінфармбюро і распаўсюджвалі сярод насельніцтва. Восенню 1941 яны пранiклі ў ням. друкарню, надрукавалі там 2 лістоўкі (па 50 экз.), а ў канцы года вынеслі з яе ўсё неабходнае абсталяванне для стварэння падп. друкарні. Выдавалі лістоўкі вял. тыражамі. Патрыёты здабывалі і перадавалі партызанам зброю, медыкаменты, харчы, дакументы, вялі разведку, вызвалілі з фаш. лагера і пераправілі да партызан каля 300 ваеннапалонных, сістэматычна парушалі тэлеграфна-тэлефонную сувязь, спалілі мост цераз р. Вілія на шашы Вілейка — Маладзечна, лесапілку каля Куранца, вывезлі зброю і боепрыпасы са склада гар. паліцыі, на чыг. ст. Вілейка вывелі са строю вадакачку і 9 паравозаў, узарвалі бензасклад, 3 склады з боепрыпасамі, ваен. амуніцыяй, харчамі і сенам, будынак гебітскамісарыята, дом фаш. прапаганды і біржу працы са спісамі некалькіх тысяч чалавек, якіх хацелі вывезці на катаргу ў Германію, разам з партызанамі разграмілі ў в. Каловічы гарнізон і валасную ўправу, знішчылі шэфа СД. Многія падпольшчыкі ўзнаг. ордэнамі і медалямі СССР. А. І. Валынцу прысвоена званне Героя Сав. Саюза. У Вілейцы імем падпольшчыка П. А. Маліноўскага названа вуліца, удзельнікам падполля ўстаноўлена мемарыяльная дошка. У в. Куранец змагарам пастаўлены помнік.

*І. Ф. Клімаў.*

**ВІЛЕ́ЙСКАЯ ВО́БЛАСЦЬ.** Існавала ў 1939—44. Утворана 4.12.1939 на тэр. б. *Віленскага ваяводства* Польшчы пасля ўз'яднання Зах. Беларусі з БССР. Цэнтр — г. *Вілейка.* Уключала 7 паветаў: Ашмянскі, Браслаўскі, Вілейскі, Дзісенскі, Маладзечанскі, Пастаўскі і Свянцянскі. Плошча 20,7 тыс. км$^2$, насельніцтва 938,3 тыс. чал. (1941). 15.1.1940 паветы скасаваны, вобласць падзелена на 22 раёны: Астравецкі, Ашмянскі, Браслаўскі, Відзскі, Гадуцішкаўскі, Глыбоцкі, Дзісенскі, Докшыцкі, Дунілавіцкі, Ільянскі, Крывіцкі, Куранецкі, Маладзечанскі, Мёрскі, Мядзельскі, Пастаўскі, Пліскі, Радашковіцкі, Свірскі, Свянцянскі, Смаргонскі, Шаркоўшчынскі. У складзе вобласці (акрамя Вілейкі) 8 гарадоў: Ашмяны, Глыбокае, Дзісна, Докшыцы, Маладзечна, Паставы, Свянцяны, Смаргонь; 4 гар. пасёлкі — Браслаў, Відзы, Дунілавічы і Радашковічы. 1.5.1940 створаны гар. пасёлкі Даўгінава і Друя, 12.10. 1940— Краснае, Куранец, Ракаў і Шаркоўшчына. 25.11.1940 у склад Літвы перададзены Свянцянскі р-н (акрамя 3 сельсаветаў) і частка Гадуцішкаўскага р-на, якія былі скасаваны. Абласная газ. «Сялянская газета». На 1941 у вобласці 9 гарадоў, 9 гар. пасёлкаў, 20 раёнаў і 304 сельсаветы. 20.9.1944 В. в. перайменавана ў *Маладзечанскую вобласць* з цэнтрам у Маладзечне. *М. І. Камінскі.*

**ВІЛЕЙСКІ БОЙ 1943.** Адбыўся паміж партызанамі 1-й Антыфаш. брыгады і гарнізонам ням.-фаш. акупантаў у г. Вілейка 31.10—1.11.1943. Гарнізон у Вілейцы налічваў 3 тыс. салдат і афіцэраў, некалькі артыл. і мінамётных узводаў; на зах. ускраіне горада знаходзілася школа паліцэйскіх; з Пд і У Вілейка была ахавана сістэмай дзотаў. Падраздзяленні гарнізона прымалі актыўны ўдзел у карных аперацыях, рабаваннях і знішчэнні сав. грамадзян (толькі ў Вілейцы імі загублена каля 4 тыс. жыхароў). У горадзе размяшчалася больш за 10 складоў з прадуктамі і боепрыпасамі, ваен. амуніцыяй. Партызаны планавалі раптоўным ударам нанесці праціўніку страты ў жывой сіле і тэхніцы. 27—30 кастр. брыгада скрытна сканцэнтравалася ў раёне вёсак Сутокі, Ходасы, Харкі. 31 кастр. ў 23 гадз стралк. атрады адначасова з пачаткам артпадрыхтоўкі перайшлі ў наступленне. У вулічных баях супраць намнога большых сіл праціўніка яны знішчылі станцыйныя збудаванні, лесапільны з-д, млын, воданапорную вежу, 4 цыстэрны з гаручым, 10 розных складоў, узарвалі 4 чыг. і 4 шашэйныя масты. Праціўнік страціў у баі 120 чал. забітымі, партызаны — 18 чал. забітымі і 52 паранеными. *У. С. Пасэ.*

**ВІЛЕ́ЙСКІ ГІСТО́РЫКА-КРАЯЗНА́ЎЧЫ МУЗЕ́Й.** Засн. 30.7.1982, адкрыты ў Вілейцы 7.5.1985. Пл. экспазіцыі 179 м$^2$, 14,4 тыс. экспанатаў асн. фонду (1992). Тэматычныя аддзелы: «Час», «Мір», «Вайна», «Горад». Сярод экспанатаў матэрыялы археал. раскопак на тэр. раёна (паселішча Сосенка, гарадзішча Малышкі), царк. летапісы канца 19 ст., манетны

скарб 17 ст., дакументы і фотаздымкі, якія расказваюць пра гісторыю горада і раёна, удзел ураджэнцаў Вілейшчыны ў кастрычніцкіх падзеях 1917, грамадз. вайне, партыз. руху ў краі ў Вял. Айч. вайну і яго кіраўнікоў А. С. *Азончыка*, А. І. *Валынца*, пра вызваленне Вілейшчыны ад ням.-фаш. захопнікаў, у т. л. аб 35-й гв. танкавай брыгадзе, якая вызваляла Вілейку. Экспануюцца прылады працы і побыту бел. сялян 19 — пач. 20 ст., мэбля ручной работы пач. 20 ст., калекцыі самавараў, нумізматычная, вырабы ткацтва і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, у т. л. творы нар. умельцаў П. А. Гатоўкі (саломапляценне), І. М. Каркоцкага (пляценне з лазы), Л. Ф. Соніч (вышыўка), У. Л. Субача (разьба па дрэве) і інш. У экспазіцыі матэрыялы, прысвечаныя ўраджэнцам раёна мастаку Н. Ю. Сілівановічу, паэтэсе Г. Новік, Героям Сав. Саюза К. М. *Зубовічу*, У. С. *Лаўрыновічу*, Героям Сац. Працы М. І. Касяк, Я. Ф. Міррановічу.

Будынак Вілейскага гісторыка-краязнаўчага музея.

*Я. А. Ігнатовіч.*

**ВІЛЕ́ЙСКІ ПАВЕ́Т.** Існаваў на Беларусі ў 1793—1940. Створаны ў Мінскай губ., з 1843 у Віленскай губ. Цэнтр — г. *Вілейка*. Пл. павета — 5591,2 кв. вярсты, насельніцтва 208 013 чал. (1897). У 1886 у склад павета ўваходзілі 27 валасцей: Будслаўская, Вілейская, Ваўкалацкая, Вязынская, Гарадоцкая, Германішская, Даўгінаўская, Дунілавіцкая, Жаснянская, Іжская, Княгінінская, Крайская, Краснасельская, Крывіцкая, Куранецкая, Лебедзеўская, Лучайская, Маладзечанская, Манькавіцкая, Мядзельская, Нарыцкая, Параф'янаўская, Порплішчанская, Рабунская, Радашковіцкая, Сітцаўская і Хаценчыцкая. У складзе павета былі заштатны г. Радашковічы, мяст. Будслаў, Ваўкалата, Вязынь, Гарадок, Даўгінава, Дунілавічы, Касцяневічы, Крайск, Краснае, Крывічы (Крыжывічы), Куранец, Лебедзева, Маладзечна, Манькавічы, Маркава, Новы Мядзел, Рагавое, Рэчкі, Стары Мядзел, Хаценчыцы, 1279 паселішчаў сельскага тыпу. Да пач. 20 ст. скасаваны Германішская і Сітцаўская воласці. З 7.11.1917 у складзе Заходняй вобл., з 1.1.1919 — БССР, з 2.2.1919 — Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 — БССР. У складзе Зах. Беларусі тэр. павета ў 1921—39 далучана да Польшчы, з 4.2.1921 павет уваходзіў у Навагрудскае ваяв., акрамя Крайскай вол., перададзенай Барысаўскаму пав., Радашковіцкай і Хаценчыцкай вал., перададзеных Менскаму пав. БССР. З 1922 у складзе *Віленскай зямлі*, з 22.12.1925 у *Віленскім ваяводстве*. 26.6.1925 Груздаўская (б. Манькавіцкая), Красненская (б. Краснасельская), Лебедзеўская, Маладзечанская і Радашковіцкая гміны перададзены Маладзечанскаму пав. 19.12. 1925 у В. п. скасаваны Альковіцкая і Рэчкаўская гміны, іх тэрыторыя размеркавана паміж Ільскай, Крывіцкай, Касцевіцкай і Куранецкай гмінамі. На 1927 В. п. меў 13 гмін, пл. 3421 км$^2$. У ліст. 1939 уключаны ў склад БССР, з 4.12.1939 у *Вілейскай вобласці*, дзе 15.1.1940 скасаваны.

*М. І. Камінскі.*

**ВІЛЕ́ЙСКІ ПАДПО́ЛЬНЫ АБКО́М КП(б)Б** у Вялікую Айчынную вайну. Створаны ЦК КП(б)Б і працаваў пад яго кіраўніцтвам з 28.5.1943 да пач. ліп. 1944. Дзейнічаў на тэр. Вілейскай вобл. Стварыў падп. Вілейскі гарком КП(б)Б, 20 райкомаў [гл. *Раённыя падпольныя камітэты КП(б)Б*], якія аб'ядноўвалі 76 пярвічных парт. арг-цый, 1366 камуністаў у партызанскіх фарміраваннях. 17 райкомаў партыі выдавалі газеты. Кіраваў Вілейскім партызанскім злучэннем, падп. патрыятычнымі арг-цыямі. Накіроўваў дзейнасць *Вілейскага падпольнага абкома ЛКСМБ*. Сакратары абкома: І. Ф. *Клімаў*, А. А. *Манахаў* (з вер. 1943); члены: П. А. *Жуковіч* (да 28.6.1944, загінуў), Манахаў, В. А. Цітавец, А. І. Шаўчэнка. Базіраваўся ў Нарачанскай пушчы (каля в. Чарэмшыцы Мядзельскага р-на) у партыз. брыгадзе імя Варашылава. Друкаваны орган — «Сялянская газета». Выдаваў бюлетэнь са зводкамі Саўінфармбюро, сатырычны плакат, выпускаў лістоўкі і звароты; усяго каля 800 назваў тыражом 120 тыс. экз. Для ўзмацнення

парт. кіраўніцтва дзейнасцю падполля і партыз. фарміраванняў, расшырэння паліт.-масавай работы абком КП(б)Б падзяліў тэр. вобласці на 3 зоны, замацаваўшы за кожнай аператыўную групу парт. і камсамольскіх работнікаў на чале з членам абкома. У паўн. зоне групу ўзначальваў Цітавец, у паўд.-ўсх.— Жуковіч, у цэнтр.— Манахаў.

Да стварэння падп. абкома КП(б)Б вял. ролю ў арганізацыі парт. падполля і партыз. руху на тэр. вобласці адыгралі аператыўная група Вілейскага абкома КП(б)Б на чале з Клімавым, якая базіравалася ў раёне *Віцебскіх «варот»*, з лета 1942 — накіраваныя ЦК КП(б)Б арганізатарскія парт. групы пад кіраўніцтвам П. Ф. Рудава, М. З. Умінскага, Шаўчэнкі і інш. У маі 1943 у вобласць накіравана група адказных арганізатараў абкома КП(б)Б у складзе П. П. Булойчыка, А. І. Доўгага, І. М. Яўмененкі, якія сталі сакратарамі падп. райкомаў партыі.

У гонар Вілейскіх падп. абкомаў КП(б)Б і ЛКСМБ, штаба партыз. брыгады імя Варашылава каля в. Чарэмшыцы ў 1980 пастаўлены 2 мемарыяльныя знакі. *І. Ф. Клімаў.*

**ВІЛЕ́ЙСКІ ПАДПО́ЛЬНЫ АБКО́М ЛКСМБ** у Вялікую Айчынную вайну. Дзейнічаў з 15.4.1943 да 5.7.1944 пад кіраўніцтвам ЦК ЛКСМБ і *Вілейскага падпольнага абкома КП(б)Б.* Узначальваў дзейнасць Вілейскага падп. ГК ЛКСМБ, 20 падп. райкомаў Вілейскай вобл., 45 тэрытарыяльных, 217 пярвічных камсамольскіх арг-цый у партыз. фарміраваннях, усяго больш за 5,2 тыс. камсамольцаў. Сакратары абкома: П. М. Альшанскі (да 14.9.1943, потым нам. сакратара), П. М. Машэраў (з 14.9. 1943, 1-ы сакратар), В. І. Шымановіч (з 1.10.1943); члены: Альшанскі, В. Т. Бацечка, Б. П. Гусеў, С. А. Пранько (усе з 15.4.1943), Я. І. Гуля (з 14.9.1943).

У кастр. 1943 створаны 3 зоны (цэнтр., паўн., паўд.-ўсх.; кіраўнікі: Шымановіч, Альшанскі, Гуля). Асн. база абкома знаходзілася ў Нарачанскай пушчы паміж азёрамі Вішнеўскае і Нарач. Друкаваныя органы: газ. *«Молодёжная правда»*, бюлетэнь «Молодёжь Белоруссии в борьбе за Родину». *Р. М. Шавяла.*

**ВІЛЕ́ЙСКІ РАЁН.** На ПнЗ Мінскай вобл. Пл. 2,4 тыс. км$^2$. 39,4 тыс. жыхароў (без Вілейкі, 1992). Утвораны ў 1940. Цэнтр — г. *Вілейка*, 414 населеных пунктаў, 14 сельсаветаў: Альковіцкі, Асіпавіцкі, Вязынскі, Даўгінаўскі, Жарскі, Іжскі, Ільянскі, Касцяневіцкі, Куранецкі, Любанскі, Нарачанскі, Рабунскі, Рэчкаўскі, Хаценчыцкі.

Большая частка паверхні раёна ў межах Нарачана-Вілейскай нізіны, на ПдУ Мінскае ўзвышша. Вілейскае вадасховішча — самы буйны штучны вадаём Беларусі. На ПнЗ Вішнеўскае воз.; рэкі: Вілія з прытокамі Нарач, Сэрвач, Ілія. Пад лесам 41 % тэр. раёна. Праходзіць чыгунка Полацк — Мінск, аўтадарогі на Мінск, Вільнюс, Мядзел, Плешчаніцы, Смаргонь, Докшыцы. Утвораны як *Куранецкі раён* у складзе Вілейскай вобласці. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі ў раёне (разам з Вілейкай) больш за 15 тыс. сав. грамадзян, 5 вёсак спалена разам з насельніцтвам: Брыгідава, Гасцілава, Старынкі, Боркі і Любча (дзве апошнія не адрадзіліся пасля вайны). На тэр. раёна дзейнічалі Ільянскі і Куранецкі падп. райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ, *Вілейска-Куранецкае патрыятычнае падполле, Вілейскае партызанскае злучэнне*, асобны партыз. атрад «Трэція», выходзілі падп. газеты «Партизанская правда», «Сялянская газета», «Народный мститель», «Молодёжная правда». Раён вызвалены ў ліп. 1944 войскамі 3-га Бел. фронту ў ходзе *Мінскай аперацыі 1944.* 5.7.1946 Куранецкі р-н перайменаваны ў В. р., які ўвайшоў у Маладзечанскую вобл., 16.7.1954 скасаваны г. п. Куранец, Талуцкі, Халапоўскі сельсаветы; 20.7.1957 да В. р. далучана тэр. скасаванага Ільянскага раёна, 6.9. 1957 скасаваны Карпавіцкі, Латыгальскі, Навагуцкі, Рэдзькавіцкі, Суднікоўскі, 18.5.1959 — Чурлонскі сельсаветы, з 20.1.1960 у Мінскай вобл. 25.12.1962 далучаны Ваўкалацкі (скасаваны 4.4.1973), Даўгінаўскі, Жарскі, Мільчанскі (скасаваны 31.3.1977) сельсаветы Крывіцкага р-на. У 1968—76 па тэр. раёна прайшла Вілейска-Мінская водная сістэма.

У гаспадарцы раёна асн. месца займае с.-г. вытворчасць: малочная і малочна-мясная жывёлагадоўля, авечкагадоўля, бульбаводства, агародніцтва, а таксама зверагадоўля. Працуюць: шклозавод «Залессе», спіртзаводы, раённае аб'яднанне «Сельгастэхніка», дрэваапрацоўчыя ўчасткі, цэхі па выпуску кафлі і керамікі, безалкагольных напіткаў, кансерваў; лясгас, рыбгас, лесапаляўнічая гаспадарка, метэастанцыя. На 1.1.1992 у раёне 19 калгасаў, 6 саўгасаў, 17 сярэдніх, 17 васьмігадовых, 16 пачатковых школ, 26 дашкольных устаноў, 71 б-ка, 58 клубных устаноў, 23 кінаўстаноўкі, 37 фельчарска-акушэрскіх пунктаў, 3 амбулаторыі, 6 сельскіх участковых бальніц, 2 дыспансеры. Раённая газ. «Шлях перамогі».

На тэр. раёна: магілы паўстанцаў 1863—64 у вёсках Куранец, Уладыкі, салдат рус. арміі, якія загінулі ў 1-ю сусв. вайну, у вёсках Камары, Красны Беражок, Мядзведзіна; брацкія магілы сав. воінаў і партызан у вёсках Ілья, Куранец, Рэчкі і інш.; магілы ахвяр фашызму ў вёсках Брыгідава, Гасцілава, Даўгінава, Зацемень, Іжа, Ілья, Калодкі, Куранец, Куцькі, Лясная, Макаўе, Малявічы, Мядзведзіна, Пляшчаны, Порса, Селішча, Слабада, Старынкі, Уладыкі, Хаценчыцы. Помнікі: І. Д. Чарняхоўскаму ў в. Сцешыцы, падпольшчыкам Вял. Айч. вайны ў в. Касцяневічы, удзельнікам Вілейска-Куранецкага падполля ў в. Куранец, у гонар падп. Вілейскіх і Куранецкіх гаркомаў і райкомаў КП(б)Б і ЛКСМБ, партыз. брыгад імя Даватара і «За Савецкую Беларусь» у в. Ляскі, Ільянскага падп. РК КП(б)Б і партыз. брыгады імя Фрунзе ў в. Навасёлкі. Захаваліся помнікі: эпіграфікі 12 ст.— Барысаў камень у в. Камена (гл. ў арт. *Барысавы камяні*), археалогіі — жалезаробчы цэнтр каля в. Бязводнае, каменныя магілы ў вёсках Латыгаль, Ручыца, Хаценчыцы. Помнікі архітэктуры: званіца канца 18 — пач. 19 ст., касцёл пач. 20 ст. ў в. Альковічы, царква пач. 20 ст. ў в. Вязынь, Станіславаўскі касцёл сярэдзіны 19 ст. і Троіцкая царква 2-й пал. 19 ст. ў в. Даўгінава, Ільінская царква пач. 20 ст. і касцёл канца 19 — пач. 20 ст. ў в. Ілья, царква

ВІЛЕЙСКІ РАЁН

19 ст. ў в. Кастыкі, капліца канца 18 ст. і Петрапаўлаўская царква сярэдзіны 19 ст. ў в. Касута, касцёл Маці Боскай сярэдзіны 18 ст. ў в. Касцяневічы, царква 2-й пал. 19 ст. ў в. Куранец, Мікалаеўская царква 2-й пал. 18 ст. ў в. Латыгаль, царква канца 19 ст. ў в. Мільча, цэрквы 2-й пал. 19 ст. ў вёсках Нарач і Рабунь, капліцы сярэдзіны 18 ст. і 19 ст., Успенская царква 2-й пал. 19 ст. ў в. Ручыца, Успенская царква канца 19 — пач. 20 ст. ў в. Спягла; парк 18 ст. ў в.Асцюковічы, сядзіба 19 ст. ў в. Вязынь, будынак гасцініцы рубяжа 19—20 ст. у в. Ілья, шклозавод «Залессе» сярэдзіны 18 ст. ў пас. Партызанскі.

Сярод ураджэнцаў раёна мастакі Н. Ю. Сіліванові (в. Цынцавічы), Л. А. Альпяровіч (в. Куранец), акадэмікі хімік А. А. Ахрэм (в. Урэчча), хірург М. М. Маліноўскі (в. Жаўткі).

*Літ.*: Булгак В. А., Кебец Л. И., Клемантович Н. Н. Вилейка: Ист.-экон. очерк. Мн., 1984; Каханоўскі Г. А. Вілейка: Гіст.-экан. нарыс. Мн., 1974; Климов И. Ф., Граков Н. Е. Партизаны Вилейщины. 2 изд. Мн., 1970.

*Я. А. Ігнатовіч.*

**ВІЛЕНСКАЕ БІСКУПСТВА,** царкоўна-адміністрацыйная адзінка *рымска-каталіцкай царквы* ў ВКЛ. Утворана паводле прывілея вял. князя ВКЛ Ягайлы ад 17.2.1387, зацверджана папам рымскім у 1388. Падпарадкоўвалася папству, з 1418 гнезненскаму арцыбіскупу. На чале стаяў біскуп, якому падпарадкоўваліся амаль усе парафіі на Беларусі і ў Літве (акрамя парафій Берасцейскага ваяводства). Першы біскуп — *Андрэй.* Віленскі капітул (калегія духоўных асоб пры біскупе) створаны ў 2-й пал. 1388 пазнанскім біскупам Дабрагостам паводле булы папы Урбана VI са згоды Ягайлы. У яго першапачаткова ўваходзілі пробашч, дэкан, 10 канонікаў; з 1397— кусташ, 1345 — арцыдзяк, з 1522 — прэлат-кантар. Для вырашэння важных пытанняў царкоўнага жыцця біскуп склікаў сіноды (з'езды) духавенства. Першы сінод адбыўся ў канцы 1520 або пач. 1521. Штодзённымі справамі біскупства займаўся двор (біскупская курыя), які падзяляўся на канцылярыю, духоўны суд (кансісторыю) і прыватны двор біскупа (маршалак, падскарбі, кухмістр, ключнік і інш. прыдворныя, а таксама капеланы). За 1387—1430 на аснове фундушаў было створана 27 парафіяльных касцёлаў, за 1431—1500 99 касцёлаў, у 1-й пал. 16 ст.—129 касцёлаў. У сярэдзіне 16 ст. ў 17 паветах ВКЛ дзейнічала 259 парафій (касцёлаў), у 1790—277, у т. л. ў Ашмянскім павеце 62, Гарадзенскім 49, Наваградскім 29. Парафіі былі аб'яднаны ў дэканаты. У 18 ст. на Беларусі існавалі Аршанскі, Ашмянскі, Бабруйскі, Браслаўскі, Ваўкавыскі, Віцебскі, Вішнеўскі, Гарадзенскі, Лідскі, Менскі, Наваградскі, Радашковіцкі, Ражанскі, Свірскі, Слонімскі і Полацкі дэканаты.

У 1387 вял. князь ВКЛ аддаў В. б. валасць Таўрогіне на ПнУ сучаснай Літвы, Бакшты на Пн Меншчыны, Дуброўна каля Ліды і некалькі вёсак. Пазней біскупства атрымала Стрэшын на Дняпры (1391), Корань, Ганявічы і Ваўчу на Пн Меншчыны (1395), валасць Убарць (цяпер Лельчыцы) на Мазыршчыне (1430), Параф'янава каля Докшыц (1434) і інш. маёнткі. У сярэдзіне 16 ст. ўладанні біскупства ўключалі каля 300 вёсак (прыкладна 11,5 тыс. двароў, 60—80 тыс. прыгонных сялян). Яны падзяляліся на сталовыя біскупскія (прыбытак ад іх ішоў на патрэбы біскупа і яго памочніка — суфрагана), сталовыя капітульныя (на ўтрыманне капітула) і прэстыманіяльныя ўладанні (на патрэбы асобных канонікаў капітула). Найб. значнымі біскупскімі маёнткамі на Беларусі былі Ігумен і Убарць, сталовымі капітульнымі Горваль і Стрэшын, прэстыманіяльнымі — Бакшты, Корань, Ганявічы, Ваўча (Бягомль), Параф'янава і інш.

Да 3-га падзелу Рэчы Паспалітай віленскімі біскупамі былі: Андрэй (1388—98), Якуб Пліхта (1398—1407), Мікалай Бяркоўскі (1408—14), Пётр Кустынскі (1414—21), Мацей з Вільні (1422—53), Мікалай Дзярздоўскі (1459—67), Ян Ласовіч (1468—81), Андрэй Гасковіч (1481—91), Войцах Табар (1492—1507), Войцах Радзівіл (1508—19), Ян «з княжат літоўскіх» (1519—36), Павел Гальшанскі (1536—55), Валяр'ян Пратасевіч-Шышкоўскі (1556—80), Ежы Радзівіл (1581—91), Бенядзікт Война (1600—15), Яўстафі Валовіч (1616—30), Абрагам Война (1631—49), Ежы Тышкевіч (1649—56), Ян Даўгяла (1656—61), Ежы Белазор (1662—66), Аляксандр Сапега (1666—71), Стафан Пац (1672—84), Аляксандр Катовіч (1685—86), Канстанцы Бжастоўскі (1687—1722), Мацей Анцута (1722—23), Кароль Панцаржынскі (1724—29), Міхал Зяньковіч (1730—62), Ігнацы Масальскі (1762—94), Касакоўскі (1794—95).

*Літ.*: Белоруссия в эпоху феодализма: Сб. документов и материалов. Т. 1. Мн., 1959; Социально-политическая борьба народных масс Белоруссии. Конец XIV в.—1648 г.: Сб. документов и материалов: В 3 т. Т. 1. Мн., 1988; Мараш Я. Н. Ватикан и католическая церковь в Белоруссии (1569—1795). Мн., 1971; Kurczewski J. Biskupstwo Wileńskie... Wilno, 1912; Kodeks dyplomatyczny katedry i diecezji Wileńskiej. T. 1 (1387—1507). Kraków, 1948; Ochmański J. Biskupstwo Wileńskie w średniowieczu. Poznan, 1972.

*В. Л. Насевіч.*

**ВІЛЕНСКАЕ ВАЕ́ННАЕ ГУБЕРНА́ТАРСТВА,** назва *Віленскага генерал-губернатарства* ў 1830—43.

**ВІЛЕНСКАЕ ВАЯВО́ДСТВА,** 1) адм.-тэр. адзінка ў 1413—1795 у ВКЛ і ў Рэчы Паспалітай. Цэнтр — г. Вільня. Утворана паводле *Гарадзельскага прывілея 1413* на аснове тэр. былога *Віленскага княства.* У В. в. ўвайшла большая частка зах., цэнтр. і ўсх. земляў Беларусі (валасці і буйныя маёнткі з цэнтрамі Ашмяны, Бабруйск, Барысаў, Браслаў, Быхаў, Глуск, Крычаў, Ліда, Магілёў, Мінск, Нясвіж, Прапойск, Рэчыца, Свіслач на Бярэзіне, Узда, Чачэрск, Шацк і інш.), тэр. паўн.-ўсх. літоўскіх земляў (валасці і буйныя маёнткі з цэнтрамі Вількамір, Уцяна, Біржы, Кернаў, Свянцяны). Віленскаму ваяводу ў вайсковых адносінах падпарадкоўваліся намеснік навагародскі (навагрудскі), а таксама Слуцкае, Клецкае (да 1521) і Мсціслаўскае (да 1529) княствы, якія таксама фармальна ўваходзілі ў В. в. (фактычна былі аўтаномныя). На У Беларусі В. в. мела цераспалосныя ўчасткі з *Трокскім ваяводствам* у Бабруйскай валасці — «віленскую палавіцу» (г. Бабруйск і 18 сёл). У студз. 1507 са складу В. в. вылучана і ўтворана Новагародскае ваяводства. Пасля адм.-тэр. рэформы 1565—66 утворана *Мінскае ваяводства,* у В. в. засталося 5 пав. (Ашмянскі, Браслаўскі, Віленскі, Вількамірскі, Лідскі). Пасля 1514 і да 1611, а потым з 1654 на тэр. ваяводства (ад Браслава да Вільні) рассялілася смаленская шляхта, якая мела тут экстэрытарыяльную арганізацыю з Старадубскага і Смаленскага пав. (соймікі збіраліся ў Вільні). Гэта было намінальнае Смаленскае ваяводства. У 1791 утвораны Завілейскі (з цэнтрам у Паставах) і Эйшышскі пав. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай у 1793 сойм пераўтварыў Браслаўскі пав. у ваяводства. 20.12.1793 было ліквідавана Смаленскае ваяводства як экстэрытарыяльная адзінка. У 1795 тэр. В. в. ўвайшла ў склад Расійскай імперыі. В. в. мела герб — «Пагоню», у сенаце Рэчы Паспалітай засядалі ваявода і кашталян, у сойм выбіраліся па 2 паслы (дэпутаты) ад кожнага павета і па 2 дэпутаты ў *Трыбунал Вялікага княства Літоўскага.* Мундзір ваяводства: цёмна-сіні кунтуш, жупан і адвароты ярка-пунсовыя. Пасля далучэння да Расійскай імперыі на тэр. В. в. утвораны *Слонімская губерня* і *Віленская губерня.*

2) Адм.-тэр. адзінка на тэр. Зах. Беларусі і Літвы ў складзе Польшчы ў 1922—39. Пл. 28,9 тыс. км², насельніцтва 1275,2 тыс. чал. (1931). Цэнтр — г. Вільня. Гэтыя землі па ўмовах расійска-літоўскага дагавора 12.7.1920 урад РСФСР фармальна перадаў Літве (фактычнай перадачы не адбылося). 9.10.1920 яны былі захоплены польск. войскамі ген. Л. Жалігоўскага і на іх тэрыторыі ўтворана *Сярэдняя Літва,* якая 20.2.1922 была далучана да Польшчы. В. в. ўключала 9 паветаў: Ашмянскі, Браслаўскі, Валожынскі (з 1925), Вілейскі, Віленска-Трокскі, Дзісенскі, Маладзечанскі, Дунілавіцкі (Пастаўскі), Свянцянскі. У час 2-й сусв. вайны ў кастр. 1939 ваяводства занята часцямі Чырв. Арміі. Паводле савецка-літоўскага дагавора 10.10.1939 тэр. Віленскага краю (г. Вільня, Віленска-Трокскі і б. ч. Свянцянскага пав.) перададзена Літве, на астатняй тэр. ў снеж. 1939 утворана *Вілейская вобласць.*

*Літ.*: Любавский М. К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского статута. [М., 1892]; Baliński M., Lipiński T. Starożytna Polska pod względem historycznym, geograficznym i statystycznym. T. 3. Warszawa, 1846.

*А. П. Грыцкевіч.*

**ВІЛЕНСКАЕ ГЕНЕРА́Л-ГУБЕРНА́**

ТАРСТВА, адм.-тэр. адзінка ў Расійскай Імперыі ў 1794—1912. Створана ў час задушэння царскімі войскамі *паўстання 1794* Цэнтр — г. Вільня (у 1794—96 г. Гродна).

Спачатку мела назву Літоўскае ген.-губернатарства, у 1800—30 Літоўскае ваен губернатарства, з 1830 Віленскае ваен губернатарства, пасля 1843 Віленскае, Гродзенскае і Ковенскае генерал-губернатарства. Ядром яго былі землі ВКЛ, далучаныя да Расіі ў выніку 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795). У сувязі з адм.-тэр. зменамі і інш. падзеямі (паўстанні 1830—31 і 1863—64) тэр. ген.-губернатарства мянялася. У склад яго у розны час уваходзілі: Слонімская і Віленская (1795—97), Літоўская (1797—1801), Віленская і Гродзенская (з 1801) губерні, Беластоцкая вобл. (1831—43), Ковенская (з 1843), Мінская (1834—56 і 1862—70), Віцебская і Магілёўская (1863—69), Аўгустоўская (1863—64) губерні Пад канец мікалаеўскай эпохі ў 1850—55 ген.-губернатар кіраваў і *Віленскай навучальнай акругай* на правах папячыцеля З 1860-х гадоў віленскага ген.-губернатара называлі і «галоўным начальнікам Паўн.-Зах. краю» З утварэннем *Віленскай ваеннай акругі* пасада віленскага ген.-губернатара у 1862—84, а часам і пазней аб'ядноўвалася з пасадай камандуючага войскамі акругі Пасля 1909 ген.-губернатары не прызначаліся. Упраўленне ген.-губернатара існавала да 1 7 1912.

Пры ўпраўленні дзейнічалі музей М М Мураўева (з 1898), інспекцыя друкарняў, кніжнага гандлю і інш У 1904—15 выдаваўся зборнік навук. прац па гісторыі, этнаграфіі, мовазнаўстве, статыстыцы Беларусі і Літвы *«Виленский временник»* У багатым архіве канцылярыі віленскага ген.-губернатара (ДГА Літвы, ф 378) шмат каштоўных матэрыялаў з гісторыі Беларусі і Літвы, вызваленчага руху і палітыкі царызму ў гэтым рэгіёне Іх публікацыя пачалася яшчэ ў 19 ст. Асабліва важныя матэрыялы знаходзяцца ў Паліт аддзяленні канцылярыі. Ген.-губернатары (ваен. губернатары, гал. начальнікі) М. В. Рапнін (1794—98), Б. П. Дэ-Ласі (1798—99), І П Горыч (1799), М. І. Кутузаў (1799—1801, 1809—12), Л. Л. Бенігсен (1801—06), А М. Рымскі-Корсакаў (1806—09, 1812—30), М. Я. Храпавіцкі (1830—31), М А Далгарукаў (1831—40), Ф Я. Міркові (1840—50), І. Г. Бібікаў (1850—55), У І Назімаў (1855—63), М. М. Мураўеў (1863—65), К. П. Каўфман (1865—66), Э. Т. Баранаў (1866—68), А Л Патапаў (1868—74), П. П. Альбядзінскі (1874—80), Э. І. Татлебен (1880—84), І. С. Каханаў (1884—93), П В Аржэўскі (1893—97), В. М. Троцкі (1897—1901), П. Дз. Святаполк-Мірскі (1902—04), А. А. Фрэзэ (1904—05), К Ф Кршывіцкі (1905—09).

*Літ* Памятная книжка Виленского генерал губернаторства на 1868 год Спб, 1869, Энгель А. Описание дел, хранящихся в архиве Виленского генерал-губернаторства Т 1—2 Вильна, 1869—70, Рубинштейн С Ф. Хронологический указатель указов и правительственных распоряжений по губерниям Западной России, Белоруссии и Малороссии за 240 лет с 1652 по 1892 г. Вильна, 1894, Акты и документы архива Виленского, Ковенского и Гродненского ген.-губернаторского управления, относящиеся к истории 1812—1813 гг Ч 1—2 Вильна, 1912—13, Сборник документов, касающихся административного устройства Северо-Западного края при императрице Екатерине II (1792—1796) Вильна, 1903, [Катков М Н] Письмо Михаила Никифоровича Каткова Помпею Николаевичу Батюшкову о положении дел в Виленском генерал-губернаторстве // Рус старина Спб, 1900 Т 103, № 7, Перечень главных начальников, военных губернаторов и генерал-губернаторов Северо-Западного края, с обозначением времени управления ими краем // Виленский календарь на 1908 високосный год Вильна, Б г, Żytkowicz L Rządy Repnina na Litwie w latach 1794—1797 Wilno, 1938 *Г В Кісялёў*

**ВІЛЕНСКАЕ, ГРО́ДЗЕНСКАЕ І КО́ВЕНСКАЕ ГЕНЕРА́Л-ГУБЕРНА́ТАРСТВА,** назва *Віленскага генерал-губернатарства* ў 1843—1912.

**ВІЛЕНСКАЕ КНЯ́СТВА,** феадальны ўдзел Полацкай зямлі, пазней і ВКЛ. Утварылася не пазней 2-й пал. 11 ст. як удзел *Полацкага княства* У 1070 тут княжыў полацкі кн. Расціслаў Рагвалодавіч Паводле сведчання Васкрасенскага летапісу, пасля 1129 жыхары Вільні запрасілі на свае княжанне з Візантыі сыноў высланага туды разам з іншымі полацкімі князямі Расціслава — Давіда і Маўкольда, ад якіх і пайшла віленская галіна полацкай дынастыі, ад яе паходзяць вялікія князі ВКЛ. Пасля заваявання Войшалкам у 1264 Нальшчанаў і Дзяволтвы тэр. В. к. ўвайшла ў ВКЛ. Не пазней 1323, калі *Вільня* была абвешчана сталіцай ВКЛ, княства заняло цэнтр. становішча ў дзяржаве. Большую частку насельніцтва В. к. складалі *крывічы*, якія і заснавалі Вільню (напачатку — Крывы горад), астатняе насельніцтва было балтамі. У 1340-я гады ў В. к. ўваходзілі гарады Ашмяны, Браслаў, Велікамір (Вількамір), з канца 14 ст.— Крэўская і Лідская воласці. Паводле *Гарадзельскага прывілея 1413*, тэр. В к. ўвайшла ў склад *Віленскага ваяводства.*

*Літ* Любавский М К Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского статута [М, 1892], Леонтович Ф И Очерки истории литовско-русского права Образование территории Литовского государства Спб, 1894, Голубович В, Голубович Е Кривой город — Вильно // Краткие сообщения Ин-та истории материальной культуры М, Л, 1945 [Вып] 11, Ермаловіч М І Па слядах аднаго міфа 2 выд Мн, 1991 С 44—49, Słownik geograficzny Krolestwa Polskiego i innych krajów słowianskich T 3 Warszawa, 1896 *М І Ермаловіч*

**ВІЛЕНСКАЕ МЕДЫЦЫ́НСКАЕ ТАВАРЫ́СТВА,** навуковая грамадская арг-цыя ў 1805—1939. Засн. 12.12.1805 пры Віленскім ун-це па ініцыятыве прафесараў медыцынскага ф-та. Аб'ядноўвала выкладчыкаў ун-та (пасля яго закрыцця ў 1832 — Віленскай медыка-хірургічнай акадэміі) і медыкаў-практыкаў Вільні і іншых гарадоў Беларусі і Літвы. Т-ва заснавалі і ўзначалілі прафесары А. Снядэцкі (прэзідэнт), Я. Лобенвейн (віцэ-прэзідэнт), І. Франк (сакратар), аптэкар Ж. Гут (скарбнік). Ставіла за мэту вывучэнне праблем медыцыны, хірургіі, фармакалогіі, краявой паталогіі, даследаванне мясц. мінеральных крыніц, барацьбу з заразнымі захворваннямі. З'яўлялася цэнтрам навук медыцынскай думкі Беларусі і Літвы, спрыяла разгортванню ў краі даследаванняў у розных галінах медыцыны і прыродазнаўства. Сярод членаў-карэспандэнтаў т-ва былі бел. ўрачы Э. Бржэзінскі (Пінск), К. Вірыен і К. Тыфенбах (Гродна), С. Грабоўскі (Слуцк), І. Грабоўскі і Л. Зембржыцкі (Свіслач), К. Гюбенталь і Дз. В. Земляніцын (Віцебск), Д В. Спасовіч, М. К Берг, Ф. Брадэнбург, В. Д. Гіндэнбург і І. Машчынскі (Мінск), А Я Грабоўскі, С Алтаржэўскі і М. Цывінскі (Магілёў) і інш. Яны дасылалі т-ву навук працы, выступалі на яго пасяджэннях з дакладамі і паведамленнямі Намаганнямі т-ва ажыццяўлялася медыка-тапаграфічнае вывучэнне Віленскага краю, закладзены асновы статыстычнага вызначэння захворванняў насельніцтва. Пасля закрыцця ў 1842 медыка-хірургічнай акадэміі навук. дзейнасць т-ва згарнулася, яно засяродзіла ўвагу пераважна на практычных пытаннях аховы здароўя Яго члены ўдзельнічалі ў ліквідацыі халерных і інш. эпідэмій у краі, знаемілі насельніцтва з асновамі санітарыі і гігіены, вялі барацьбу з забабонамі і знахарствам, прапагандавалі вакцынацыю. Па ініцыятыве т-ва ў Вільні засн. Інстытут вакцынацыі (1808), Інстытут мацярынства (1809), бактэрыяхімічная лабараторыя (1887), Пастэраўская станцыя (1897); у 1807—10 і 1860—64 дзейнічала бясплатная амбулаторыя для бедных. Працы т-ва друкаваліся ў навук. зб. «Веснік Віленскага медыцынскага таварыства» (т 1—2, 1818—21), «Дзеннік медыцыны, хірургіі і фармацыі» (т. 1—2, 1822—24), «Віленскі фармацэўтычны веснік» (1920, усе на польскай мове), рус медыцынскай газ. «Друг здравия» (С.-Пецярбург), час. «Pamiętnik Wileńskiego towarzystwa lekarskiego» («Веснік Віленскага медыцынскага таварыства», 1925—39) У 1865—1913 выдаваліся пратаколы сходаў т-ва. Ганаровымі членамі т-ва былі рус. вучоныя С П Боткін, І. В. Буяльскі, М. І. Пірагоў, І. М. Сечанаў, ням Р. Вірхаў, А. Гумбальт і інш.

*Літ* Загорский В Б Императорское Виленское общество 1805—1895 Вильна, 1896, Крючок Г Р Очерки истории медицины Белоруссии Мн, 1976, Бизюлявичюс С К истории развития медицинских обществ в Литве // Материалы VI конференции по истории науки в Прибалтике Вильнюс, 1965 *А П Малчанаў*

**ВІЛЕНСКАЕ ПАЎСТА́ННЕ 1794,** нацыянальна-вызваленчае паўстанне *«віленскіх якабінцаў»* 23 4—11.8.1794. Ставіла за мэту адраджэнне Рэчы Паспалітай у межах 1772. Паўстанцы на чале з

ген. Я. *Ясінскім* у ноч на 23 крас. захапілі Вільню. Частка атрада рус. войск была перабіта, частка абяззброена і ўзята ў палон; паўстанцы арыштавалі каменданта Вільні палк. Рэбока, ген. Арсеньева і палк. Языкава. Утварылі *Найвышэйшую літоўскую раду*, якая 24 крас. выпусціла маніфест аб далучэнні да паўстання ў Кракаве і заклікала зброяй здабываць свабоду і роўнасць. 25 крас. ўтвораны рэв. крымінальны суд, які караў смерцю здраднікаў. У той жа дзень быў павешаны адзін з дзеячаў *Таргавіцкай канфедэрацыі*, былы вял. гетман ВКЛ Ш. Касакоўскі. Паўстанне падтрымалі шляхта, рамеснікі, сяляне, узброеныя косамі (касінеры). Прэзідэнт Вільні А. Тызенгаўз пісаў прэзідэнту Варшавы І. Закрэўскаму, што «народ абараняецца, бо гэта зямля ёсць Айчына». Без ведама *Найвышэйшай нацыянальнай рады* Найвышэйшая літ. рада абвясціла сябе кіруючым цэнтрам паўстання на Беларусі і ў Літве. Трэцяга мая рада прызначыла Ясінскага начальнікам узбр. сіл Літвы і Беларусі. Паўстанцы імкнуліся разбіць рус. войскі на У ад Вільні і распаўсюдзіць паўстанне на Мінскую губ., якая была ў складзе Расійскай імперыі. У бітве пад Палянамі (Астравецкі р-н) паўстанцы прымусілі рус. войскі пакінуць подступы да Вільні. Пад уплывам кансерватыўных колаў Т. *Касцюшка* абвінавацію Ясінскага ў сепаратызме і 14 чэрв. адхілілі яго ад камандавання. Гэта прывяло да аслаблення нац.-вызваленчага руху на Беларусі і ў Літве. Паўстанцам не хапала зброі, харчоў і абмундзіравання. Пасля баёў на подступах да Вільні (у т. л. бітва 25 чэрв. на ПдУ ад Ашмян) 12 жн. рус. войскі ўварваліся ў Вільню. Паўстанцкія атрады адышлі ў бок Гродна.

*Літ.:* Архив Вилеиского генерал-губернаторства... Т. 2, ч. 1. Вильна, 1870; M o ś c i c k i H. Generał Jasiński i powstanie Kościuszkowskie. Warszawa etc., 1917; Я г о ж. Litwa i Korona w epoce porozbiorowej. Warszawa, 1920.

*С. В. Таляронак.*

**ВІЛЕНСКАЕ ПЕРАМІР'Е 1656,** пагадненне паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай аб спыненні ваен. дзеянняў і сумеснай барацьбе супраць шведаў, падпісанае 24.10(3.11).1656 у маёнтку Немежы пад Вільняй. Паліт. збліжэнне дзяржаў было выклікана ўмяшаннем у *вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* Швецыі і пачаткам супраць яе ваен. дзеянняў рус. арміі. Ініцыятарам аб'яднання сіл і супольнай барацьбы супраць шведаў быў рус. цар Аляксей Міхайлавіч. Перагаворы пачаліся 12(22), з 16(26) жн. сустрэчы праходзілі пры пасрэдніцтве аўстрыйскіх дыпламатаў. У расійскую дэлегацыю ўваходзілі кн. М. І. Адоеўскі, І. І. Лабанаў-Растоўскі, дзякі Г. Дохтураў і Я. Юр'еў. Камісарамі Рэчы Паспалітай былі полацкі ваявода Я. Красінскі, маршалак вял. літ. К. Завіша, віленскі біскуп Я. Даўгяла-Завіша, С. Сарбеўскі і ксёндз Ц. Бжастоўскі. Дамагаючыся замацавання за Масквой усіх захопленых зямель, царскія паслы выкарыстоўвалі нават подкуп камісараў Рэчы Паспалітай. Аляксей Міхайлавіч праз паслоў прапанаваў сябе на пасаду польскага караля. Пасля пэўных кампрамісаў пагадненне ўрэшце было падпісана. Паводле прынятага акта, Рэч Паспалітая і Расія спынялі вайну паміж сабой і аб'ядноўваліся ў антышведскі блок. Войскі абедзвюх дзяржаў павінны былі разам выступіць супраць агульнага непрыяцеля — Швецыі і Брандэнбурга. Забаранялася падпісваць сепаратныя пагадненні з гэтымі краінамі. Рэч Паспалітая згадзілася на бліжэйшым сойме паставіць пытанне аб выбранні Аляксея Міхайлавіча каралём, але пры ўмове, што каранавацца ён зможа толькі пасля смерці польскага караля Яна Казіміра, да каранацыі ніякае ўмяшанне ў справы Рэчы Паспалітай не дапускалася. Пагадненне прадугледжвала таксама захаванне правоў і прывілеяў католікаў. Віленскае пагадненне стала значным дыпламатычным поспехам абедзвюх дзяржаў, яно пэўным чынам паўплывала на далейшы ход вайны 1654—67. Аднак антышведскі альянс быў нетрывалы і кароткачасовы. І Рэч Паспалітая, і Расія шукалі новых саюзнікаў. Пасля таго, як летам 1658 Варшаўскі сойм адмовіў цару ў праве на выбранне і запатрабаваў аддаць усе захопленыя землі, а новыя перагаворы, якія пачаліся пад Вільняй, зайшлі ў тупік, ваен. дзеянні ўзнавіліся.

*Літ.:* С о л о в ь е в С. М. История России с древнейших времен. Кн. 5, т. 9—10. М., 1961; Г а л а к т а о н о в И. В. Из истории русско-польского сближения в 50-х — 60-х годах XVII в.: (Андрусовское перемирие 1667 г.). Саратов, 1960; G a w l i k M. Projekt unii rosyjsko-polskiej w drugiej połowie XVII wieky // Kwartalnik historyczny. 1909. T. 23, z. 1/2; W ó j c i k Z. Polska i Rosija wobec wspólnego niebezpeczeństwa szwedzkiego w okresie wojny północnej 1655—1660 // Polska w okresie drugiej wojny północnej 1655—1660. Warszawa, 1957. T. 1.

*Г. М. Сагановіч.*

**ВІЛЕНСКА-РАДАМСКАЯ УНІЯ 1401,** дзяржаўны і паліт. саюз ВКЛ і Польшчы,

Т. Макоўскі. Тытул панегірыка св. Казіміру. Віленская акадэмічная друкарня. 1610. Медзярыт.

Дакумент пра заключэнне уніі быў падпісаны князямі і панамі ВКЛ 18 студз. 1401 у Вільні, у Польшчы — 11 сак. ў Радаме. Паводле пагаднення абедзве дзяржавы павінны былі дзейнічаць разам супраць знешніх ворагаў, польскія феадалы абавязваліся ў выпадку смерці Ягайлы не выбіраць караля без згоды феадалаў ВКЛ, пацвярджаліся правы вял. князя ВКЛ *Вітаўта* на самастойнае кіраванне, але таксама прызнаваліся спадчынныя правы Ягайлы, які ў акце уніі названы найвышэйшым князем літоўскім. Уніяй быў юрыдычна замацаваны саюз раўнапраўных дзяржаў у барацьбе з ням. агрэсіяй. Адным з яе вынікаў стала *Грунвальдская бітва 1410*. Да акта уніі было прымацавана 40 пячатак феадалаў ВКЛ.

*Літ.:* Любавский М. Литовско-Русский сейм. М., 1900. С. 27—30; Kutrzeba S., Semkowicz W. Akta unji Polski z Litwą, 1385—1791. Kraków, 1932.

*І. Ю. Юхо.*

**ВІЛЕНСКА-ТРОКСКІ ПАВЕТ.** Існаваў у Заходняй Беларусі ў 1922—39. Пасля польска-сав. вайны 1920 войскі ген. Л. Жалігоўскага 9.10.1920 захапілі Віленшчыну, перададзеную ўрадам Сав. Расіі Літве. 8.1.1922 польскі ўрад правёў выбары ў часовы сойм Віленшчыны (т. зв. *Сярэдняй Літвы*), які 20.2.1922 прыняў рашэнне аб далучэнні яе да Польшчы. Пастановай урада Польшчы ад 6.4.1922 утвораны новы В.-Т. п. у складзе Віленскай зямлі, з 22.12.1925 Віленскага ваяв. Цэнтр павета — г. Трокі (сучасны Тракай). Пл. 183 км$^2$, нас. 168 879 чал. (без Вільні). В.-Т. п. падзяляўся на 18 гмін: Аранская (перададзена ў маі 1926 з *Лідскага павета*), Быстрыцкая (скасавана ў лют. 1927), Варнянская, Каняўская (перададзена ў маі 1926 з Лідскага пав., у 1930 скасавана, тэр. ўключана ў склад Аранскай гміны), Ландвараўская (скасавана ў лют. 1927), Мічкунская, Міхалішская (створана ў лют. 1927), Немянчынская, Рудамінская, Рудзішкаўская, Рукойненская (скасавана ў лют. 1927), Падбярэзінская, Трокская, Шумская, Янішкаўская (у чэрв. 1925 перададзена ў Свянцянскі пав.). Пасля вызвалення Зах. Беларусі ўрад СССР у кастр. 1939 перадаў павет у склад Літвы, дзе асн. яго тэр. пазней склала Тракайскі раён Літвы.

*М. І. Камінскі.*

**ВІЛЕНСКАЯ АКАДЭМІЧНАЯ ДРУКАРНЯ,** Віленская друкарня езуіцкай акадэміі. Існавала ў Вільні ў 1586—1805. Аснову яе склалі шрыфты і інш. друкарская маёмасць *Брэсцкіх друкарань* М. Радзівіла Чорнага, якія М. Радзівіл Сіротка перавёз у 1576 у Вільню, а ў 1586 падараваў калегіі ордэна езуітаў (гл. ў арт. *Віленскі універсітэт*). Кіраваў работамі наёмны друкар, наглядаў за дзейнасцю прэфект друкарні — чл. ордэна. Выпускала штогод да 15 выданняў на польскай і лац. мовах: падручнікі, палемічную л-ру, царк. права, жыцці святых, тэалагічна-філасофскія творы, у т. л. П. Скаргі, М. Сміглецкага, Я. Альшэўскага, І. Лаёлы. Сярод падручнікаў выданні Арыстоцеля, грэчаская граматыка М. Карвацкага (1725), лат. і літ. граматыкі і слоўнікі. Друкавала таксама і свецкія творы: лібрэта оперы «Выкраданне Гелены» В. Пучытэлі (1636, на італьянскай мове), спеўнік С. Славянчынскага (1648); Статут ВКЛ 1588 (1693); календары (з 1737), якія змяшчалі спісы чыноўнікаў ВКЛ і Польшчы (Кароны), гіст. матэрыялы; газеты і часопісы (з сярэдзіны 18 ст.). Выпускала панегірыкі: «Казанне на пахаванні... Я. С. Алелькавіча» (1593) С. Высоцкага, «Турэцкія і інфлянцкія войнаў... аб Яне Каралі Хадкевічу» (1622) Ф. Малькота, «Казанні... з розных гадоў» (1645) Я. Альшэўскага; «Мемарыял бессмяротнай памяці Паўлу Яну... і... Казіміру Льву... Сапегам» (1667) Я. Андрэйкавіча, «Дарога ўправа да фартуннай вечнасці... Р. Кунасевічу Гімбуту» (1756) Д. Шышкі і інш., напісаныя найчасцей членамі віленскай і нясвіжскай калегій. Многія з іх з'яўляюцца каштоўнай крыніцай інфармацыі пра дзеячаў ВКЛ. Выдадзены гіст. творы: «Збор матэрыялаў аб царкоўным стане, што датычыцца Вялікага княства Літоўскага» (1650), «Пра войны 1648 і 1649 гадоў супраць запарожскіх казакаў» (1651), «Радзівілаўскія хронікі з кароткім зместам подзвігаў знакамітага роду князёў Радзівілаў» (1653) В. В. Каяловіча. Выйшлі: «Гісторыя Інфлянтаў» (1750) Гільэена, серыя падручнікаў Ф. Папроцкага па гісторыі Англіі (1758), Курляндыі (1759); «Найбольш значныя войны...» (1763), гісторыя ВКЛ (1760, 1763), падручнік К. Галоўкі «Звесткі па гісторыі Польшчы і Вялікага княства Літоўскага» (1753, 1763, 1771), «Арганізацыя і палажэнні аб Калегіуме Нобіліум Віленскай Акадэміі Т(аварыства) І(сусава)» (1762), «Першая частка гісторыі Літоўскай правінцыі Тав(арыства) Ісусава» (1768) С. Растоўскага. У афармленні выданняў выкарыстоўваліся арнаментальная, геральдычная гравюра, сюжэтныя ілюстрацыі, партрэт. Упершыню ў мастацтве ВКЛ тут сустракаецца кніжны медзярыт (1589). Магчыма, з друкарняй супрацоўнічаў Т. Макоўскі, які гравіраваў тытул і ілюстрацыі да панегірыка св. Казіміру (1610). Дрэварыты пераважна ананімныя. Па майстэрстве выканання іх узровень саступае медзярытам. У тэхніцы гравюры на метале для друкарні працавалі таксама Ф. Бальцэвіч, Л. Вілац, К. Гётке, Л. Крыштановіч, А. і Л. Тарасевічы, І. Шчырскі і інш. У ілюстрацыях 17 — пач. 18 ст. дамінуе барочны стыль. Пасля скасавання ордэна езуітаў друкарняй кіраваў астраном М. Пачобут-Адляніцкі, з 1804 — адміністратар піярскай друкарні ксёндз Р. Даніловіч. У 1805 універсітэт прадаў друкарню кнігавыдаўцу І. Завадскаму.

Л. Вілац. Герб П. Я. Сапегі з кнігі С. Тупіка «Панская смерць». Віленская акадэмічная друкарня. 1667. Медзярыт.

*Літ.:* Чепене К., Петраускене И. Издания типографии вильнюсской академии 1576—1805: Библиогр. Вильнюс, 1979; Drukarze dawnej Polski od XV do XVIII wieku. Z. 5. Wielkie Księstwo Litewskie. Wrocław; Kraków, 1959.

*М. В. Нікалаеў, М. І. Ткачэнка.*

**ВІЛЕНСКАЯ АКАДЭМІЯ,** назва *Віленскага універсітэта* ў 1579—1781.

**ВІЛЕНСКАЯ АКРУГОВАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ КПЗБ.** Дзейнічала ва ўмовах падполля з кастр. 1923 да жн. 1938 пад кіраўніцтвам Віленскага акр. к-та КПЗБ (да стварэння КПЗБ рэв. работу вяла Віленская акр. арг-цыя КПРП). У канцы 1923 акр. арг-цыя КПЗБ налічвала 44 члены партыі, у сярэдзіне 1925— каля 120, у кастр. 1928—900, у маі 1935—318. У 1925 аб'ядноўвала 7 раённых (Ашмянскую, Валожынскую, Глыбоцкую, Лідскую, Маладзечанскую, Пастаўскую, Свянцянскую) і Віленскую гар. арг-цыі КПЗБ. Структура акр. арг-цыі мянялася. У розны час кіраўнікамі В. а. а. КПЗБ былі М. С. Арэхва, І. Г. Бернштэйн, М. Ш. Жукоўскі-Зільбер, І. В. Малец, Ф. Б. Пірышка. Камуністы арганізоўвалі эканам. і паліт. выступленні працоўных, удзельнічалі ў стварэнні гурткоў *Беларускай сялянска-работніцкай грамады*, умацоўвалі свой уплыў у прафсаюзных, культ.-асветных, інш. легальных і паўлегальных арг-цыях, прымалі актыўны ўдзел у выбарчых кампаніях, змагаліся за амністыю палітзняволеных. З іх удзелам 4.8.1926 у Вільні ўтвораны Міжпартыйны сакратарыят па барацьбе за амністыю палітвязняў, дзейнічалі 15 гурткоў МОПРа, праз якія члены КПЗБ аказвалі матэрыяльную дапамогу зняволеным. Летам 1927 у час выбараў у Віленскі гар. савет ад блока левых партый, які падтрымалі камуністы, было выбрана 5 членаў КПЗБ, у самакіраванне Віленска-Трокскага і Свянцянскага паветаў — 20. У перыяд выбараў у польскі сейм (1928) Віленская акр. арг-цыя агітавала выбаршчыкаў галасаваць за спіс «Рабоча-сялянскага адзінства». Сусветны эканамічны крызіс узмацніў стачачную барацьбу працоўных Зах. Беларусі. У 1928—34 баставалі рабочыя віленскіх

з-даў «Балтык» і рыбакансервавага, Кучкурышскай ткацкай і Нова-Вяркяйскай фанернай ф-к, навучэнцы Віленскай бел. гімназіі (1929), адбыліся *Віленскія забастоўкі абутнікоў 1927—28, Віленскія выступленні беспрацоўных 1930—34, Віленская забастоўка рабочых 1932, Віленскія забастоўкі рабочых завода «Электрыт» 1934—35* і інш. Шмат увагі камуністы аддавалі рабоце сярод інтэлігенцыі, вучнёўскай і студэнцкай моладзі, дапрызыўнікаў. Віленскі акругком КПЗБ наладзіў сувязь з прагрэс. легальнай арг-цыяй *«Фронт»*, якая праводзіла антываен. агітацыю, распаўсюджвала рэв. л-ру. З 1935 пад кіраўніцтвам камуністаў у Вільні дзейнічала падп. «Рэвалюцыйная арганізацыя дапрызыўнікаў», якая выдавала газ. «Революционный допрнзывник». У пач. 1935 Віленскі акругком КПЗБ абмеркаваў з кіраўніцтвам мясц. арг-цый ППС і Бунда пытанні сумесных дзеяннаў супраць наступлення сіл рэакцыі на сац. заваёвы працоўных, у маі правёў адзінафрантавую першамайскую дэманстрацыю, у якой прынялі ўдзел 2 тыс. рабочых гарбарных, лесапільных і шклозаводаў, тытунёвай ф-кі. У адпаведнасці з рашэннямі 2-га з'езда КПЗБ і VII кангрэса Камінтэрна (1935) Віленская акр. арг-цыя вяла работу па стварэнні адзінага рабочага і антыфаш. нар. фронту, арганізоўвала выступленні супраць рэжыму санацыі, за шырокія дэмакр. правы і свабоды. 2.7.1935 у Вільні адбыліся 4-тысячная стачка, дэманстрацыі і мітынгі пратэсту супраць прыняцця антыдэмакр. канстытуцыі, у вер. 1935 у дзень выбараў у сейм — забастоўкі і дэманстрацыя. У выніку агітацыі камуністаў за байкот выбараў на выбарчыя ўчасткі Віленскай акругі з'явілася не больш за 35 % выбаршчыкаў. На пач. 1936 Віленская акр. камісія класавых прафсаюзаў, якія ўваходзілі ў сферу ўплыву КПЗБ, аб'ядноўвала 5,2 тыс. членаў. Летам 1936 пры садзейнічанні камуністаў у Вільні быў створаны камітэт па падрыхтоўцы да Сусв. кангрэсу міру ў складзе Г. Дэмбінскага, С. Ендрыхоўскага, М. Жаромскай, Е. Путраманта і інш., які збіраў подпісы ў абарону міру, выкрываў падпальшчыкаў новай сусв. вайны, выдаў газету-аднадзёнку, у якой змясціў антываен. зварот 148 прадстаўнікоў інтэлігенцыі. У 1936—37 Віленская акр. арг-цыя КПЗБ удзельнічала ў арганізацыі і правядзенні адзінафрантавых першамайскіх дэманстрацый, стачак пратэсту супраць расстрэлу рабочых у Кракаве, задушэння ўсеагульнай сял. забастоўкі ў Польшчы, кіравала выступленнямі сялян Віленшчыны супраць падаткаў, шарварак, адработак. У 1935—38 у краі адбылося 150 стачак, у якіх удзельнічала каля 21 тыс. чал. Камуністы далучалі працоўных да ўдзелу ў кампаніях за вызваленне палітзняволеных, у абарону С. В. *Прытыцкага*, салідарнасці з барацьбой іспанскага народа супраць фашызму. На Віленшчыне быў створаны Камітэт дапамогі народу Іспаніі, які падтрымліваў сувязь з інтэрнац. брыгадай імя Дамброўскага, якая змагалася супраць іспанскіх фашыстаў. Па ініцыятыве камуністаў класавыя прафсаюзы вербавалі добраахвотнікаў для накіравання ў Іспанію, рабілі грашовыя ўзносы ў фонд дапамогі рэспубліканцам. Акр. арг-цыя накіроўвала работу мясц. арг-цый КСМЗБ. Польскія ўлады адказвалі рэпрэсіямі і тэрорам на выступленні працоўных, арыштоўвалі камуністаў, камсамольцаў, кіраўнікоў прафс. арг-цый, левых партый. Толькі ў 1926 у Вільні і Віленска-Трокскім пав. было арыштавана 80 чал., у горадзе арганізаваны 2 судовыя працэсы над 147 актыўнымі ўдзельнікамі рэв. і нац.-вызваленчага руху. У 1937 у Вільні арыштавана 217 чал., 37 з іх адпраўлены ў Бяроза-Картузскі канцлагер. В. а. а. КПЗБ спыніла дзейнасць у сувязі з неабгрунтаваным роспускам Кампартыі Польшчы і яе састаўных частак КПЗБ і КПЗУ.

*Літ.*: Революционный путь Компартии Западной Белоруссии (1921—1939 гг.). Мн., 1966; Революциониое движеиие в Вильнюсском крае, 1920—1940: Документы н материалы. Вильнюс, 1978. *І. Ф. Дзяшко.*

**ВІЛЕНСКАЯ АКРУГО́ВАЯ АРГАНІЗА́ЦЫЯ РСДРП.** Дзейнічала ў снеж. 1905—06. Створана пры Віленскім к-це РСДРП (гл. ў арт. *Віленская арганізацыя РСДРП)* для кіраўніцтва мясц. арг-цыямі і групамі РСДРП. Аб'ядноўвала Ашмянскую, Гродзенскую, Лідскую, Смаргонскую арг-цыі (гл. адпаведныя артыкулы), Аранскую і Свянцянскую групы РСДРП, с.-д. групу сялян мяст. Падброддзе. Правяла 3 канферэнцыі (гл. *Першая канферэнцыя Віленскай акруговай арганізацыі РСДРП, Трэцяя канферэнцыя Віленскай акруговай арганізацыі РСДРП*; матэрыялы II канферэнцыі не зберагліся). Увосень 1905 і на пач. 1906 паліт. забастоўкі і дэманстрацыі адбыліся ў Гродне, Лідзе, Ашмянах, Смаргоні і інш. У Валожынскай, Даўгінаўскай, Куранецкай, Лебедзеўскай, Маладзечанскай і інш. валасцях створаны с.-д. арг-цыі і сял. групы. У ліст.— снеж. 1905 у Ашмянскім, Дзісенскім і Вілейскім пав. адбылося каля 30 сялянскіх выступленняў, многія з іх задушаны войскамі. Вясной 1906 пры Смаргонскай, летам 1906 пры Гродзенскай групах створаны самастойныя акруговыя арг-цыі. Пасля III канферэнцыі (чэрв. 1906) арыштаваны многія члены к-та і дэлегаты, у жн. 1906— большасць членаў арг-цыі.

**ВІЛЕНСКАЯ АПЕРА́ЦЫЯ 1812**, наступальная аперацыя арміі Францыі і саюзных дзяржаў на чале з Напалеонам I супраць рускіх войск, размешчаных уздоўж зах. граніцы Расійскай імперыі; пачатковы этап *Айчыннай вайны 1812.* У канцы 1811 Напалеон адмовіўся ад абарончага плана вайны (на выпадак рускай агрэсіі супраць *Варшаўскага герцагства*) і прыняў рашэнне аб нападзе на Расію. Да сярэдзіны мая 1812 «Вялікая армія» была высунута на рубеж р. Вісла ад Данцыга (Гданьска) да Радама. Да гэтага ж часу адносіцца распрацоўка Напалеонам прынцыповага плана аперацыі: сканцэнтраванне галоўнай групоўкі ва Усх. Прусіі і ўдар на Вільню на правым флангу рускіх, што, у прыватнасці, дазваляла б адрэзаць рускае войска ад Прыбалтыкі і шляхоў на Пецярбург. Для гэтага прызначаліся 2 групы войск: паўночная пад камандаваннем Напалеона (гвардыя, 1-ы, 2-і і 3-і карпусы, 1-ы і 2-і кав. карпусы; каля 220 тыс. чал. пры 527 гарматах) і цэнтральная на чале з Э. Багарнэ (4-ы і 6-ы карпусы, 3-і кав. корпус; каля 85 тыс. чал. пры 208 гарматах). Паўд. група Жэрома Банапарта (5-ы, 7-ы і 8-ы карпусы, 4-ы кав. корпус; каля 80 тыс. чал. пры 159 гарматах) павінна была наступаць у раёне Гродна, каб перашкодзіць канцэнтрацыі рускіх сіл супраць гал. групоўкі. З боку Расіі на граніцы з Прусіяй і Варшаўскім герцагствам вясной 1812 былі разгорнуты Заходнія арміі: 1-я М. Б. Барклая дэ Толі (каля 120 тыс. чал. пры 580 гарматах) — ад Расіен (Расяйняй) да Беластока і Пружан, з галоўнай кватэрай у Вільні, і 2-я П. І. *Баграціёна* (каля 49 тыс. чал. пры 168 гарматах) — у раёне Луцка, для прыкрыцця напрамку на Пд ад Палесся. Агульным галоўнакамандуючым фармальна лічыўся імператар Аляксандр I, які знаходзіўся пры 1-й арміі. Адзінага стратэгічнага плана ў рускага камандавання не было. Т. зв. «план Фуля» (абарончыя дзеянні 1-й арміі з апорай на ўмацаваны лагер на Зах. Дзвіне і адначасовае наступленне 2-й арміі на фланг і тыл праціўніка; гл. ў арт. *Дрысенскі лагер*), хоць і ўхвалены Аляксандрам I, афіцыйна зацверджаны не быў. Сам цар вагаўся паміж наступальным (раптоўны напад на герцагства) і абарончым рашэннямі. Аператыўны план Барклая дэ Толі (зацверджаны не пазней сак. 1812; даведзены да войск у красавіку) прадугледжваў абодва гэтыя варыянты. У канцы мая — пачатку чэрвеня 2-я армія была перакінута з Валыні да Пружан, а затым у раён Ваўкавыска, яе авангард заняў Заблудаў. Адпаведна левы фланг 1-й арміі быў адцягнуты да Ліды. Сувязь паміж арміямі ажыццяўляў асобны казацкі корпус М. І. Платава (каля 6 тыс. чал.) у Гродне. Да 11(23) чэрв. паўн. і цэнтр. групы напалеонаўскіх войск завяршылі стратэгічнае разгортванне на лініі сярэдняга цячэння Нёмана.

Ваенныя дзеянні пачаліся ў ноч на 12(24) чэрв. пераправай частак 1-га корпуса за 7 км вышэй Коўна. Да 15(27) чэрв. тут пераправілася ўся паўн. група. Вайна не застала рускіх знянацку. 13(25) чэрв. 1-я армія пачала арганізаваны адыход у агульным напрамку на Свянцяны (Швянчоніс), пакінуўшы Вільню без бою. 16(28) чэрв. горад быў заняты Напалеонам. Група Багарнэ 17—20 чэрв. (29 чэрв.—2 ліп.) перайшла Нёман на Пн ад Прэн (Прэнай) і далучылася да асноўных сіл. Майстэрскае вывядзенне Барклаем дэ Толі сваёй арміі з-пад удару і яе рух на ПнУ аказаліся поўнай нечаканасцю для Напалеона. Далейшае яго наступленне ў любым магчымым напрамку — супраць 1-й ці 2-й арміі або паміж імі, на Мінск,— ставіла б пад пагрозу флангі ўдарнай групоўкі. У гэтых

умовах Напалеон быў вымушаны раздрабіць свае сілы: для праследавання і назірання за 1-й арміяй ён высунуў 2-і і 3-і карпусы і кав. авангард Ж. Мюрата, а войскі 1-га корпуса, 1-га і 2-га кав. карпусоў пад агульным камандаваннем Л Н Даву падзяліў на 3 рухомыя калоны і адправіў па дарогах на Глыбокае, Ашмяны і Ліду. Напалеон лічыў, што Баграціен абавязкова будзе імкнуцца да злучэння з 1-й арміяй, і гал. задачай цяпер ставіў хутчэйшае выяўленне і знішчэнне 2-й арміі падчас гэтага флангавага маршу. Атрады на лідскай і ашмянскай дарогах неўзабаве выявілі рух войск левага фланга 1-й арміі. Мяркуючы, што гэта перадавыя часці Баграціёна, Напалеон затрымаў свае гал. сілы ў раёне Вільні Даву заняў 19 чэрв. (1 ліп.) Ашмяны, на наступны дзень Гальшаны, але большая частка рускіх войск (6-ы пях. і 3-і кав. карпусы) паспела прайсці на Смаргонь і Свір. Толькі атрад ген. І. С. Дорахава (былы авангард 4-га пях. корпуса) апынуўся адрэзаны і ў далейшым далучыўся да 2-й арміі. Група Жэрома Банапарта пачала ваенныя дзеянні 15(27) чэрв.; праз дзень яе авангард (19-я лёгкая кав. брыгада ген. Т. Тышкевіча) увайшоў у Гродна. 18(30) чэрв. Баграціён атрымаў рэскрыпт цара з загадам рухацца праз Навагрудак і Вілейку на злучэнне з 1-й арміяй. Фарсіраваным маршам 2-я армія дасягнула 19 чэрв. (1 ліп.) Слоніма, а 21 чэрв. (3 ліп.) Навагрудка. Сутыкнення з праціўнікам яна фактычна не мела. Нягледзячы на наказы Напалеона актывізаваць наступленне на Ліду і Ашмяны, Жэром Банапарт да 22 чэрв. (4 ліп.) заставаўся ў Гродне, дзе чакаў свае адсталыя часці. Платаў без перашкод адвёў свой корпус ад Гродна да Іўя, але пасля невял. кав. бою 21 чэрв. (3 ліп.) каля в. Закрэўшчына пераканаўся, што шлях на Ашмяны перарэзаны, і павярнуў на Бакшты. Баграціён з Навагрудка накіроўваўся ў тым жа напрамку. 22 чэрв. (4 ліп.) значная частка яго арміі пераправілася цераз Нёман каля в. Мікалаева. Аднак Даву да гэтага часу падцягнуў ад Вял. Салечнікаў (Шальчынінкай) правую калону і сканцэнтраваў амаль усе свае сілы (каля 45 тыс. чал.) на мінскай дарозе. Атакаваць яго Платаў і Баграціён не адважыліся. У ноч на 23 чэрв. (5 ліп.) Баграціён вырашыў адмовіцца ад руху насустрач 1-й арміі і адступаць левым берагам Нёмана; на 2-гі дзень армія

перапраўілася цераз Нёман і рушыла на Карэлічы і Мір. Корпус Платава перайшоў на левы бераг 25 чэрв. (7 ліп.) і стаў ар'ергардам 2-й арміі. Тым часам Жэром Банапарт аднавіў наступленне, пад вечар 24 чэрв. (6 ліп.) яго кав. авангард дасягнуў Навагрудка, але армія Баграціёна ў гэты дзень знаходзілася ўжо ў наваколлі Міра, маючы не толькі забяспечаны тыл і флангі, але і магчымасць далучыць свае абозы, якія рухаліся праз Слонім і Нясвіж. Армія Барклая дэ Толі 21 чэрв. (3 ліп.) пакінула Свянцяны і адышла да Дрысенскага лагера. Такім чынам, магчымасці рэалізацыі аператыўнай ідэі Напалеона былі цалкам вычарпаныя. Рускія здолелі пазбегнуць паражэння цаной паспешлівага адступлення, пакінуўшы, па сутнасці без сур'ёзнага бою, усю тэрыторыю Віленскай і Гродзенскай губерняў. Але, улічваючы больш чым двухразовую колькасную перавагу войска Напалеона і яго поўную стратэгічную ініцыятыву падчас усёй аперацыі, яе вынікі былі не зусім здавальняючымі для французаў. Рускія арміі цалкам захавалі баяздольнасць, а іх рух па разыходных напрамках патрабаваў ад Напалеона распылення сіл і значна ўскладніў аператыўнае ўзаемадзеянне яго войск. Гал. прычына няўдачы аперацыі — прадузятая думка Напалеона, што рускія арміі з пачаткам вайны неадкладна павінны злучыцца, г. зн. рухацца канцэнтрычна. Адсюль і недастатковая ўвага Напалеона да паўд. групы войск, якой ён, насуперак яе рэальнаму значэнню, адводзіў чыста дапаможную ролю. Далейшыя дзеянні французаў уяўлялі сабой спробу адначасовага правядзення асобных аперацый супраць кожнай з рускіх армій.

*Літ.*: Бонналь А. Виленская операция: Современное воен. искусство в стратегии Наполеона с января 1811 по июль 1812 г. Спб., 1909; Мирный В. А. Отступление армий в 1812 году до Дриссы и Несвижа: Кавалерийские бои под Миром: (Ист. исслед.). М., 1912; Кузнецов Б. И. ...Краткий очерк подготовки и развёртывания сторон в 1812 г. и Виленская операция: (Пример развёртывания и марш-манёвра массовой войны). М., 1932. *В. В. Антонаў.*

**ВІЛЕНСКАЯ АРГАНІЗА́ЦЫЯ РСДРП.** Існавала ў 1901—09. Створана іскраўцамі Ф. В. Гусаравым, І. В. Клопавым, І. А. Пятніцкім, але ў выніку ганенняў і складаных працэсаў унутры с.-д. руху распалася, частка яе членаў увайшла ў бундаўскую арг-цыю. Створана зноў у канцы 1903 пры ўдзеле прадстаўнікоў ЦК РСДРП бальшавікоў Л. Д. Махліна (накіраваны ў Прыбалтыку для арганізацыі транспарціроўкі іскраўскай л-ры, арыштаваны ў снеж. 1903) і М. М. Каранеўскага, упаўнаважанага ЦК па Паўн.-Зах. краі М. М. Літвінава, якія прадвызначылі пазіцыі (пераважна бальшавіцкія), структуру і характар дзейнасці арг-цыі. Яна стваралася з мэтай стаць асновай *Паўночна-Заходняга камітэта РСДРП*. У 1904 налічвала 120 чал. і каля 200 спачуваючых, мела развітую структуру: кіруючы цэнтр, які складаўся ў асн. з прафесійных рэвалюцыянераў, 4 раёны на чале з камітэтамі, падп. друкарню. Хутка дзейнасць арг-цыі ахапіла шэраг губерняў. Яна кіравала дзейнасцю *Смаргонскай арганізацыі РСДРП*, была адным з ініцыятараў стварэння і з сак. 1904 уваходзіла ў Паўн.-Зах. к-т РСДРП, затым у *Паўночна-Заходні саюз РСДРП, Абласны саюз РСДРП Літвы і Беларусі*. Адыграла значную ролю ў арганізацыі паліт. стачак і дэманстрацый у студзені, усеагульнай стачкі віленскіх гарбароў летам 1905. У час Кастр. Усерас. паліт. стачкі разам з мясц. арг-цыяй Бунда стварыла аб'яднаны к-т для кіраўніцтва ўсеагульнай гарадской забастоўкай. Выдавала лістоўкі, пракламацыі. У канцы 1905 налічвала 400 чал. Аб'ядноўвала ў сваіх радах бальшавікоў, меншавікоў і прымірэнцаў, што адбілася на яе адносінах да 3-га з'езда РСДРП: не прызнала яго законным, але падтрымлівала сувязь з выбраным на з'ездзе ЦК. У снеж. 1905 перайменавана ў камітэт, пры якім была створана *Віленская акруговая арганізацыя РСДРП*. Камітэт меў сувязі з с.-д. арг-цыямі і групамі ў Ашмянах, Лідзе, Валожыне, Вілейцы, Куранцы, Даўгінаве, Ілы, Паставах, Лебедзеве, Дунілавічах. Спыніў дзейнасць летам 1909. *А. С. Кароль.*

**ВІЛЕНСКАЯ АРХЕАГРАФІ́ЧНАЯ КАМІ́СІЯ,** Віленская камісія для разбору і выдання старажытных актаў, афіцыйная навук. ўстанова ў крас. 1864—1915. Створана з мэтай абгрунтаваць адзін з кірункаў вялікадзяржаўнай палітыкі — русіфікацыі Беларусі і Літвы. Найважнейшым абавязкам камісіі, праца якой пачалася ў перыяд рэпрэсій М. М. Мураўёва пасля *паўстання 1863—64* у Польшчы, на Беларусі і ў Літве, была публікацыя дакументаў пра існаванне праваслаўных цэркваў і манастыроў у краі для доказу, што ВКЛ «спрадвечна руская зямля».

Археаграфічная падрыхтоўка дакументаў часта была на невысокім узроўні. У рабоце камісіі прымалі ўдзел П. А. Бяссонаў, Я. Ф. Галавацкі, М. І. Гарбачэўскі, Ф. М. Дабранскі, Дз. І. Даўгяла, Ю. Ф. Крачкоўскі, К. І. Снітка, І. Я. Спрогіс, А. В. Турцэвіч, С. В. Шолкавіч і інш. Выдадзена 39 тамоў *Актаў Віленскай камісіі* (матэрыялы копных і земскіх судоў, дакументы гродскіх судоў і магістратаў, інвентары староستваў і маёнткаў, магістрацкія акты, матэрыялы пра руска-польскую вайну 1654—67 і Айч. вайну 1812, царкоўную унію); 7 тамоў (у 9 кнігах) па гісторыі аграрных зносін, лясной гаспадаркі; зборнік палеаграфічных здымкаў са стараж. грамат і актаў і інш. Усяго камісія выдала 49 тамоў крыніц агульным аб'ёмам каля 29 тыс. старонак. Выданне актавых кніг заснавана на дакументах Цэнтральнага архіва для Віленскай, Гродзенскай, Ковенскай і Мінскай губ., дзе былі сабраны стараж. акты (да 1799 уключна) з гарадоў і мястэчак гэтых губерняў. Член камісіі Гарбачэўскі выдаў «Слоўнік старажытнай актавай мовы Паўночна-Заходняга краю і Царства Польскага» (1874). Нягледзячы на тэндэнцыйнасць у рабоце камісіі, яе выданні з'яўляюцца важнай крыніцай вывучэння гісторыі, эканомікі, культуры Беларусі, гісторыі бел. мовы.

*Літ.*: Улащик Н. Н. Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода. М., 1973. *А. П. Грыцкевіч*

**ВІЛЕНСКАЯ АРХЕАЛАГІ́ЧНАЯ КАМІ́СІЯ,** навукова-асветная ўстанова ў 1855—65, якая займалася зборам і даследаваннем помнікаў старажытнасцей на тэр. Беларусі і Літвы. Створана па ініцыятыве Я. П. Тышкевіча пры *Віленскім музеі старажытнасцей*. У склад камісіі ўваходзілі Я. П. Тышкевіч (старшыня), М. Балінскі (віцэ-старшыня), А. К. Кіркор, І. Крашэўскі, Т. Нарбут, А. С. Плятар, У. Сыракомля, К. П. Тышкевіч і інш. Камісія збірала матэрыялы па гісторыі краю, звесткі пра стараж. знаходкі і ўладальнікаў археал. матэрыялаў, наладжвала археал. экспедыцыі, абмеркаванні вынікаў іх працы, заслухоўвала даклады і рэфераты па гісторыі краю, пра побыт і фальклор насельніцтва, вывучала матэрыяльную і духоўную культуру паводле «Праграмы дзеянняў», складзенай Я. Тышкевічам. В. а. к. выпускала «Записки Виленской археологической комиссии», краязнаўчыя працы. Члены камісіі і супрацоўнікі музея пастаянна праводзілі абмен навук. інфармацыяй, кнігамі, наладжвалі сустрэчы з навук. арганізацыямі Англіі, Даніі, Расіі, Францыі, Швейцарыі, Швецыі і інш. краін. Пасля *паўстання 1863—64* на Беларусі, у Польшчы і Літве ўлады прызналі «шкоднымі» экспанаты В. а. к. і паводле загаду ген.-губернатара М. М. Мураўева камісія была закрыта.

*Літ.*: Каханоўскі Г. А. Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў XVI—XIX стст. Мн., 1984. *Г. А. Каханоўскі.*

**ВІЛЕНСКАЯ АСАЦЫЯ́ЦЫЯ,** першая пасля канчатковага падзелу Рэчы Паспалітай (1795) антыцарская тайная арг-цыя на Беларусі і ў Літве ў 1796—97. Заснавана ў Вільні вясной 1796 з мэтай барацьбы за адраджэнне Рэчы Паспалітай у межах 1772 на аснове *Канстытуцыі 3 мая 1791*. Аднак у асн. праграмным дакуменце асацыяцыі — «Акце віленскага паўстання» ад 27.1.1797 — канкрэтны план выступлення не быў распрацаваны. Паводле «Артыкулаў членам асацыяцыі» (статут т-ва), у яе маглі ўваходзіць людзі «ўсялякага звання, з талентамі і цудоўнымі якасцямі, аднак не інакш як пры строгім выпрабаванні іх складу думак, характару, сумленнасці, цвёрдасці і рашучасці». Пераважалі прадстаўнікі шляхты, каталіцкага духавенства і інш. Асацыяцыю ўзначальвалі ксяндзы Ф. *Цяцерскі* і В. Зюлкоўскі, жыхар мяст. Камень Мінскай губ. С. Юдзіцкі. На месцах утвараліся таварыствы-адгалінаванні («асацыяцыі» не больш чым па 15 чал.), якія падзяляліся на аддзелы («дэцэзіі» па 4—5 чал.). Адгалінаванні В. а. былі ў Ашмянах, Брэсце, Кобрыне, Мінску, на Украіне. Мела прыхільнікаў у Свіслачы, Дзярэчыне, Ружанах, Слоніме. Была звязана з польскімі эміграцкімі

коламі ў Італіі, Францыі, Турцыі, Малдавіі, Галіцыі. Члены В. а. былі абавязаны вербаваць у т-ва новых прыхільнікаў (не больш за 3 чал. кожны). Пры ўступленні прымалася прысяга. У мэтах канспірацыі члены т-ва маглі перадаваць звесткі толькі таму, хто прыняў іх у асацыяцыю; на публічных зборах яны павінны былі размаўляць паміж сабой з дапамогай спец. патаемных знакаў і інш. Восенню 1797 В. а. раскрыта царскімі ўладамі. Па справе праходзіла больш за 70 чал., у т. л. рэгент Кобрынскага земскага суда Т. Сестравітоўскі, пісар гэтага суда Г. Сестравітоўскі, суддзя І. Снішка, мсціслаўскі лоўчы І. Чарноцкі, сын земскага суддзі з Ліды Л. Нарбут і інш. Усе ўдзельнікі В. а. былі прыгавораны сенатам да смяротнай кары, адмененай потым імператарам Паўлам І, які загадаў «учывіць пакаранне бізуном, выврваць ноздры, паставіць узаконеныя знакі і, закаваўшы ў кайданы, адправіць на катаржныя работы».

*Літ.*: Державин [Г. Р.]. Соч. Т. 6. Переписка (1794—1816) и «Записки». Спб., 1871; Пуле де М. Станислав Август Понятовский в Гродно и Литве в 1794—1797 гг. 2 изд. Спб., 1871; Коробка А. Польские общества 20-х годов и декабристы // О минувшем: Ист. сб. Спб., 1909; Мальдзіс А. Таямніцы старажытных сховішчаў. Мн., 1974; Яго ж. «Волю нельзя у народа изъять ..» // Неман. 1976. № 12; Таляронак С. В. Тайныя таварыствы ў Літве і на Беларусі ў канцы XVIII ст.: Віленская асацыяцыя 1796—1797 гг. // Весці АН Беларусі. Сер. грамад. навук. 1992. № 5—6; Kukiel M. Próby powstańcze po trzecim rozbiorze 1795—1797. Kraków; Warszawa, 1912; Mościcki H. Dzieje porozbiorowe Litwy i Rusi. T. 1—2. Wilno, 1913—14; Miller A. Pierwsza porozbiorowa konspiracja litewska. Wilno, 1936. *С. В. Таляронак.*

**ВІЛЕНСКАЯ БАЗЫЛЬЯНСКАЯ ДРУКАРНЯ,** Віленская Траецкая друкарня. Існавала пры віленскім манастыры Святой Тройцы ў 17 — пач. 19 ст. Засн. на базе друкарні *Мамонічаў*, якую пасля 1624 Л. Мамоніч перадаў ордэну. Мела некалькі варштатаў і наборных шрыфтоў, што дазваляла выдаваць кнігі на слав., польскай, лац. і французскай мовах. Першая вядомая кніга базыльянскай друкарні — «Катэхізіс», датаваная 1628. У 1692 спыніла сваю дзейнасць, зноў аднавіла пасля 1760. Выпускала богаслужэбную і тэалагічную літаратуру, а таксама панегірыкі і падручнікі: «Буквар славянскай мовы» (1767, 1782), «Буквар польскай мовы» (1783), «Жыцці святых» К. Масіні ў 13 т. (закончана ў 1786), «Лексікон геаграфічны» Г. Карповіча (1766), «Гісторыя Усходніх Індый» Т. Падлескага (1776) і інш. У канцы 18 ст. выдавала паэзію, мастацкую прозу, драматычныя творы, выконвала заказы віленскіх бернардзінцаў і дамініканцаў. Аздоба кніг складаецца з арнаментальнай гравюры і заставак, канцовак, ініцыялаў, сюжэтных ілюстрацый рэліг. тэматыкі, геагр. карт. Выявы Багародзіцы з дзіцем, Яфрэма Сірына, цара Давіда, выкананыя ў канцы 18 ст., адрозніваюцца ад гравюр 17 ст., якія мелі эмблематычны характар. Для базыльянскай друкарні працаваў гравёр Л. Тарасевіч, які зрабіў для «Служэбніка» (Вільня, 1692; Супрасль, 1695) тытульны аркуш, партрэт К. С. Радзівіла і ўкрыжаванне.

*Літ.*: Drukarze dawnej Polski od XV do XVIII wieku. Z. 5. Wielkie Księstwo Litewskie. Wrocław; Kraków, 1959; Кніга Беларусі, 1517—1917: Зводны кат. Мн., 1986. *М. В. Нікалаеў, М. І. Ткачэнка.*

**ВІЛЕНСКАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГІМНАЗІЯ,** адна з першых беларускіх сярэдніх навуч. устаноў у Зах. Беларусі. Існавала ў 1919—44 у Вільні. Заснавана па ініцыятыве І. *Луцкевіча*, якому дапамагалі М. Кахановіч, Ю. Мэнке, А. Сакалова-Лекант, А. Станкевіч, Л. Чарняўская. У розны час дырэктарамі гімназіі былі М. Анцукевіч, Р. Астроўскі, Ф. Грышкевіч, В. Кавалевіч, Кахановіч (1-ы дырэктар), А. Міхалевіч, А. Нэканда-Трэпка, С. Паўловіч, Станкевіч, Б. Тарашкевіч; выкладчыкамі — Н. Банцлебен, М. Гарэцкі, У. Глухоўскі, І. Дварчанін, Я. Драздовіч, Х. Ільяшэвіч, С. Кароль, Б. Кіт, І. і А. Луцкевічы, Сакалова-Лекант, Я. Шнаркевіч, П. Шчасны, Р. Шырма і інш.

Узнікненне В. б. г.— заканамерная з'ява ў агульным рэчышчы бел. нац.-вызваленчага руху пач. 20 ст., адным з цэнтраў якога была Вільня. Першыя пач. школы і настаўніцкія курсы ў Вільні адкрыты ў 1915. Намер стварыць тут поў-

Першы выпуск Віленскай беларускай гімназіі: 1-ы рад (злева направа) — Г. Бонч-Асмалоўская, Л. Макоўская, М. Васільева; 2-і рад — Ф. Аляхновіч, А. Станкевіч, М. Кахановіч, Ф. Мікуліна, А. Луцкевіч, М. Гарэцкі; 3-і рад — Г. Бонч-Асмалоўскі, А. Лабуць, В. Акушка, Нядзвецкая, А. Уладзімірская, Н. Арсеннева; 4-ы рад — М. Пяткевіч, А. Клімовіч, В. Аляксюк, Л. Пусько, А. Сасноўскі. 15.6.1921.

Вучні Віленскай беларускай гімназіі. 1930-я гады

ную бел. сярэднюю школу выспеў у канцы 1918. Фармальным заснавальнікам гімназіі было *Беларускае таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны*, якое дамагалася яе адкрыцця ў перыяд ням. акупацыі. Дазвол на адкрыццё гімназіі немцы далі ўвосень 1918, напярэдадні свайго адступлення з Вільні. Пасля пераходу ўлады да Літоўскай тарыбы (рады) паводле загаду міністра асветы М. Біржышкі ад 1.1.1919 Бел. т-ву было выдзелена памяшканне ў т. зв. базыльянскіх мурах (вул. Вастрабрамская, 9; цяпер вул. Дзіджоі, 49), дзе ўжо існавала праваслаўная духоўная семінарыя. Гімназія мелася быць 8-класнай змешанага тыпу (для хлопчыкаў і дзяўчынак) з выкладаннем на бел. мове. Пасля заняцця Вільні Чырв. Арміяй і абвяшчэння Літ.-Бел. ССР (ЛітБел) новыя ўлады не адмянілі гэты дазвол, і рэгулярныя заняткі пачаліся 1.2.1919. У гэты час у гімназіі налічвалася больш за 340 вучняў, пед. калектыў складаўся з 18 настаўнікаў. Першы год яе працы быў цяжкі: бракавала школьнага інвентару, бел. падручнікаў і навуч. дапаможнікаў, не было бібліятэкі. Убоства сродкаў, неаднолькавая папярэдняя падрыхтоўка дзяцей, паўгалоднае існаванне вучняў і настаўнікаў не дазвалялі паставіць навучанне на належны ўзровень. Па ініцыятыве А. Станкевіча ў будынку гімназіі быў арганізаваны Бел. прытулак для дзяцей-сірот, у які траплялі дзеці з-пад Вільні, з Ашмяншчыны, Гродзеншчыны, Навагрудчыны. Прытулак не толькі даваў ім магчымасць існаваць, але і ствараў перспектыву навучання на роднай мове. Працавалі ўсе класы, акрамя 8-га, а таксама 2 падрыхтоўчыя, дзе пераважна займаліся дзеці з прытулку. З самага пачатку ўсім складам свайго кіравання, навучання і выхавання В. б. г. адмяжоўвалася ад старой бурж. школы з яе нац., сацыяльным і рэліг. антаганізмамі, зрабілася сапраўднай школай працоўнага люду. Акрамя беларусаў, тут вучыліся рускія і яўрэі. Вял. роля ў фарміраванні светапогляду вучняў належала І. Луцкевічу, які выкладаў беларусазнаўства і краязнаўства, звяртаючы асаблівую ўвагу на патрыят. выхаванне. Пасля захопу Вільні 21.4. 1919 польскімі войскамі і ліквідацыі рэспублікі ЛітБел гімназія зноў вымушана была змагацца за сваё існаванне. Напачатку яна не з'яўлялася дзярж. установай. Яе фінансавалі розныя грамадскія арг-цыі: Школьная рада ў Вільні, потым — *Таварыства беларускай школы*, з 1928 — бацькоўскі к-т гімназіі. В. б. г. імкнулася захаваць нац. характар, і ўсе прадметы ва ўсіх класах тут выкладаліся на бел. мове. Але з 2-га года навучання ўведзена вывучэнне і польскай мовы, на ёй выкладаліся таксама геаграфія і гісторыя Польшчы. У 1925 распараджэннем Мін-ва асветы было загадана выкладаць па-польску ўсеагульныя гісторыю і геаграфію, але кіраўніцтва гімназіі не падпарадкавалася. У гэты час В. б. г. мела яшчэ абмежаваныя правы, бо па сканчэнні 8-га класа вучням нельга было пры гімназіі здаваць экзамены на атэстат сталасці, а, значыць, і трапіць у ВНУ. Гэта права В. б. г. атрымала толькі ў 1928.

Гімназія ставіла сабе за мэту захаванне бел. нац. самабытнасці, выхаванне патрыят. пачуццяў, развіццё роднай мовы, пашырэнне дэмакр. і гуманіст. поглядаў. Гэта стварала ў адносінах да афіц. улад адкрытыя ці прыхаваныя антаганістычныя настроі ў вучняў і настаўнікаў, хоць сярод іх былі прадстаўнікі розных паліт. рухаў. Адчувальны, але неадназначны ўплыў на В. б. г. мела КПЗБ, што давала ўладам падставу для паліт. праследавання. Сярод настаўнікаў і вучняў гімназіі былі члены КПЗБ, існавала падп. ячэйка КСМЗБ. Характэрнымі рысамі тагачасных камуністаў былі нігілістычны падыход да нац. пытання, адмаўленне светапогляднага плюралізму, імкненне да расколу бел. нац.-вызваленчага руху, манапалізацыя ў ім ролі партыі. З улікам гэтага ўплыў КПЗБ на гімназію, нягледзячы на шчырыя намаганні некаторых парт. дзеячаў, меў у значнай ступені дэструктыўны характар. У выніку польскія ўлады лічылі В. б. г. «логавам камунізму», а афіц. ідэолагі Сав. Беларусі — «расаднікам буржуазнага нацыяналізму». І тыя, і другія выступалі супраць імкненняў беларусаў да развіцця нац. культуры, праяў сапраўднага бел. патрыятызму. На працягу ўсёй дзейнасці гімназіі матэрыяльны стан яе быў дрэнны. Сродкі на ўтрыманне не пакрываліся платай за навучанне, бо большасць малазабяспечаных вучняў часткова або поўнасцю вызвалялася ад гэтай платы. Значную дапамогу гімназіі давалі ахвяраванні прыватных асоб, рэгулярныя адлічэнні з дыет (зарплат) бел. паслоў, вулічныя зборы, даходы ад вечарын.

У гімназіі дзейнічалі вучнёўскія самадзейныя гурткі (літаратурны, драматычны, музычны, мастацкі, па вывучэнні мовы эсперанта), быў духавы аркестр, хор пад кіраўніцтвам Шырмы, б-ка і вучнёўскі кааператыў. Вучні выдавалі друкаваныя і рукапісныя часопісы «Васілёк» (сак. 1922), «Зорка» (20.11 — снеж. 1922), «Усход» (ліст. 1922 — студз. 1923), «Рунь» (лют.— снеж. 1923), «Наперад» (снеж. 1926), «Золак» (16.3 —22.12.1928), «Вучнёўскі звон» (20.12.1929— крас. 1930), «Пралескі» (чэрв. 1932); газеты «Покліч» (6.3.1927), «Рэха» (16.3 —27.9.1927) з дадаткам «Prima aprilis» («Першага красавіка», 1927), «Вучнёўскі голас» (чэрв.— ліп. 1932); насценную газету «Рукі прэч ад гімназіі» (20.12.1928). У 1932/33 навуч. г. гімназія стала дзяржаўнай, што, з аднаго боку, забяспечвала ёй трывалую матэрыяльную базу, з другога — пазбавіла незалежнасці, паколькі яна зрабілася філіялам польскай гімназіі імя Ю. Славацкага. Узмацніўся паліт. кантроль за «добранадзейнасцю» вучняў і настаўнікаў, у выніку чаго многія з іх вымушаны былі пакінуць гімназію. Улады ўзялі ў свае рукі падбор пед. кадраў. Некаторых настаўнікаў звольнілі, у т. л. А. Луцкевіча, які з 1923 выкладаў там бел. л-ру (пасля Гарэцкага, які выехаў у БССР). Улады палічылі А. Луцкевіча недастаткова кваліфікаваным, хоць ён меў шэраг

9-ы выпуск **Віленскай беларускай гімназіі.** 1936. БДАМЛіМ.

прац па бел. літаратуразнаўстве. Сапраўдныя ж матывы мелі паліт. характар. На польскай мове пачалі выкладацца ўсеагульныя гісторыя і геаграфія, ручная праца, фізкультура, уведзена ваен. падрыхтоўка, якую праводзілі польскія вайскоўцы. У хуткім часе ў Зах. Беларусі былі закрыты ўсе бел. гімназіі, акрамя Віленскай. У выніку рэформы сярэдняй школы ў Польшчы 8-класныя гімназіі былі пераўтвораны ў 4-класныя новага тыпу шляхам ліквідацыі 2 першых і 2 апошніх класаў. 2 апошнія класы былі рэарганізаваны ў агульнаадук. і спецыялізаваныя ліцэі. Беларусам жа ўлады не дазволілі адкрыць свой ліцэй, што з'явілася для В. б. г. дадатковай стратай. Неўзабаве інтэрнат гімназіі быў перанесены з базыльянскіх муроў у новае памяшканне. Ён стаў называцца не беларускім, а інтэрнатам «паўночна-заходняга краю» і знаходзіўся пад сталым наглядам службы бяспекі. З 1937 да пач. 2-й сусв. вайны В. б. г. размяшчалася ў будынку гімназіі імя Славацкага на вул. Дамінікону (разбураны ў час вайны). У 1939/40 навуч. годзе значная частка вучняў В. б. г. апынулася за мяжой (у ліст. 1939 Вільня перададзена сав. урадам у склад Літвы), выехалі ў БССР і некаторыя настаўнікі. Гімназія была рэарганізавана ў прагімназію, а ў 1940/41 навуч. годзе, калі Літва ўвайшла ў склад СССР, В. б. г. стала называцца няпоўнай сярэдняй школай. Нягледзячы на цяжкасці, гімназія не спыняла сваёй дзейнасці і ў перыяд ням.-фаш. акупацыі. Размяшчалася яна тады на вул. Вастрабрамскай, 29. У крас. 1944 гімназія адзначыла сваё 25-годдзе і, закончыўшы апошні навуч. год, спыніла існаванне. В. б. г. ўзгадоўвала кадры нацыянальна свядомай бел. інтэлігенцыі, унесла важкі ўклад у нац.-вызваленчы рух у Зах. Беларусі.

*Літ.:* Багдановіч Я. Беларускі прытулак у Вільні і Віленская беларуская гімназія // Багдановіч Я. На жыццёвым шляху: Успаміны. Мн., 1992. *Л. А. Луцкевіч.*

**ВІЛЕНСКАЯ БЕЛАРУСКАЯ РАДА,** ВБР, каардынацыйны цэнтр беларускіх палітычных і грамадскіх арганізацый, прадстаўнічы орган акупіраванай Германіяй тэр. Беларусі. Дзейнічала ў студз. 1918 — чэрв. 1919. ВБР абрана на *Беларускай канферэнцыі 1918* і замяніла сабой *Беларускі народны камітэт.* Старшыня ВБР А. І. *Луцкевіч.* У сувязі з абвяшчэннем 16.2.1918 незалежнасці Літ. Рэспублікі ВБР стала на цалкам незалежніцкія пазіцыі. 19.2.1918 яна прыняла пастанову, паводле якой сувязь паміж Расіяй і Беларуссю абвяшчалася парванай. Вітала абвяшчэнне 9.3.1918 *Беларускай Народнай Рэспублікі* (БНР). 18.3.1918 шэсць сяброў ВБР (В. Ю. Ластоўскі, А. І. і І. І. Луцкевічы, Я. Станкевіч і інш.) былі кааптаваны ў *Раду Беларускай Народнай Рэспублікі* і 23 сак. прыехалі ў Мінск. А. І. Луцкевіч прапанаваў Нар. сакратарыяту БНР абвесціць незалежнасць Беларусі. Пасля абмеркавання гэтай прапановы ў фракцыі Бел. сацыяліст. грамады 25.3.1918 Рада БНР прыняла 3-ю Устаўную грамату. У крас. 1918 ВБР адхіліла прапанову *Літоўскай Тарыбы* дэлегаваць у яе склад прадстаўнікоў «беларускай нацыянальнай меншасці». У вер. 1918 А. І. Луцкевіч узначаліў урад БНР. У ліст. 1918 па даручэнні А. І. Луцкевіча ВБР вяла перагаворы з Літ. Тарыбай. Паводле дасягнутай дамоўленасці, урад БНР 3.12.1918 пераехаў з Мінска ў Вільню. Адначасова ў склад Літ. Тарыбы былі кааптаваны 9 сяброў ВБР (Ластоўскі, І. І. Луцкевіч і інш.). Была зроблена чарговая спроба наладзіць цеснае бел.-літ. палітычнае і ваен. супрацоўніцтва. Перад пагрозай уварвання бальшавікоў у Вільню ўрад БНР на чале з А. І. Луцкевічам у канцы снеж. 1918 выехаў у Гродна. Неўзабаве Вільню пакінуў і літ. ўрад. З прыходам Чырв. Арміі дзейнасць ВБР была практычна паралізавана. Пасля акупацыі Вільні польскімі войскамі (крас. 1919) ВБР звярнулася да Ю. Пілсудскага з дэкларацыяй, у якой выказвала надзею, што ён дапаможа аб'яднаць усе бел. землі і дасць магчымасць бел. народу аднавіць сваю незалежную і непадзельную бацькаўшчыну. ВБР прасіла таксама не перашкаджаць ёй кантактаваць з інш. бел. радамі і дазволіць скліканне Рады БНР. 12—14.6.1919 у Вільні адбыўся з'езд бел. дэлегатаў Віленшчыны і Гродзеншчыны, які абраў *Цэнтральную беларускую раду Віленшчыны і Гродзеншчыны.* ВБР спыніла сваё існаванне.

*Літ.:* Сідарэвіч А. Акт, скіраваны ў будучыню // ЛіМ. 1992. 20 сак.

*А. М. Сідарэвіч.*

**ВІЛЕНСКАЯ БРАЦКАЯ ДРУКАРНЯ,** Віленская Святадухаўская друкарня. Існавала пры віленскім манастыры Святога Духа ў 16—18 ст. З'яўлялася выдавецкім прадпрыемствам праваслаўнай царквы ВКЛ. Выдавецкая дзейнасць дазволена прывілеямі Жыгімонта III Вазы ад 1589 і 1592 на друкаванне розных кніг «... па грэцку, славянску, руску і польску». Выдавала тэксты святога пісання, школьныя падручнікі, богаслужэбныя кнігі, палемічную літаратуру. Першае вядомае выданне выйшла ў 1595. У 1589—1610 выдадзены творы Мялецыя Сматрыцкага, Стафана і Лаўрэнція Зізаніяў. Спец. загадам ад 7.5.1610 Жыгімонта III з лагера пад Смаленскам друкарня закрыта. Брацтва перанесла сваю выдавецкую дзейнасць за межы Вільні, арганізаваўшы *Еўінскую друкарню.* Дзейнасць В. б. г. аднавілася ў 1615 і працягвалася да 1749, калі пажар знішчыў манастыр Святога Духа. Для аздобы кніг шырока ўжываліся арнаментальная гравюра і застаўкі, канцоўкі, рамкі з расліннымі і геаметрычнымі матывамі, антрапаморфнымі сюжэтамі. Геральдычная гравюра прадстаўлена гербамі Астрожскіх, Валовічаў, Агінскіх і інш., змяшчалася звычайна на адвароце тытульных аркушаў. Літургічныя выданні мелі сюжэтныя ілюстрацыі з выявамі прарокаў, апосталаў, айцоў царквы. Гравюры евангельскай тэматыкі сустракаюцца ў Трэбніках, Евангеллях. У пачатку дзейнасці друкарні ўжываліся ініцыялы, адціснутыя з дошак Ф. Скарыны. У польскамоўных выданнях пераважаюць гатычныя ініцыялы, за выключэннем асобных літар з зааморфнымі выявамі (звяроў, птушак), выкананых у рэнесансавым стылі. Кніжныя ўпрыгожанні В. б. д. зроблены ў тэхніцы ксілаграфіі.

*Літ.:* Drukarze dawnej Polski od XV do XVIII wieku. Z. 5. Wielkie Księstwo Litewskie. Wrocław; Kraków, 1959; Кніга Беларусі, 1517—1917: Зводны кат. Мн., 1986.

*М. В. Нікалаеў, М. І. Ткачэнка.*

**ВІЛЕНСКАЯ ВАЕННАЯ АКРУГА,** ваен.-тэр. адзінка ў Расійскай імперыі ў 1862—1914. Створана ў ходзе *ваенных рэформ 1860—70-х гадоў.* Цэнтр — г. Вільня.

Тэрыторыя акругі неаднаразова мянялася. Напачатку ўключала Віленскую, Віцебскую, Гродзенскую, Ковенскую, Магілёўскую, Мінскую губ. У 1871 да яе далучана тэр. скасаванай Рыжскай ваен. акругі. У 1911 уключала: Віленскую, Ковенскую, Віцебскую (акрамя Люцынскага, Себежскага і Невельскага пав.), Мінскую, Магілёўскую, Сувалкаўскую, Курляндскую губ., Гродзенскі і Слонімскі пав. Гродзенскай, Рыжскі пав. Ліфляндскай, Суражскі, Мглінскі, Навазыбкаўскі, Старадубскі і Ноўгарад-Северскі пав. Чарнігаўскай губ. Акруга мела важнае стратэг. становішча — прыкрывала з З напрамкі на Маскву і Пецярбург. Гэтыя функцыі выконвалі крэпасці Коўна, Усць-Дзвінск, Дзвінск, Аліта і Гродна. Маскоўска-Брэсцкая і Пецярбургска-Ковенская шашэйныя дарогі, а таксама чыг. сетка дазвалялі падтрымліваць устойлівую сувязь з іншымі акругамі. У 1911 у В. в. а. былі раскватараваны 4 армейскія корпусы з кавалерыяй і дапаможнымі войскамі. Акругу ўзначальваў камандуючы войскамі, якому падпарадкоўваліся ўсе размешчаныя ў акрузе вайск. часці і ваенна-навуч. установы. Пры камандуючым дзейнічалі ваенна-акруговы савет і суд. У мірны час на камандуючага, акрамя абавязкаў па падтрыманні баяздольнасці войск, ускладалася задача «садзейнічаць грамадзянскім уладам ва ўсіх тых выпадках, калі неабходны ўдзел войск для захавання парадку і спакою ў краі». У час вайны камандуючы акругай прызначаўся камандуючым арміяй, а штаб акругі пераўтвараўся ў штаб арміі. Штаб В. в. а. выдаваў газ. «Виленский военный листок» (з 1906 выходзіла 2 разы на тыдзень). На працягу 1862—84, а часам і пазней пасада камандуючага войскамі акругі аб'ядноўвалася з пасадай віленскага ген.-губернатара. У час 1-й сусв. вайны на тэр. акругі створаны *Дзвінская ваенная акруга* і *Мінская ваенная акруга.*

Камандуючыя войскамі В. в. а.: У. І. Назімаў (1862—63), М. М. Мураўёў (1863—65), К. П. Кауфман

(1865—66), Э. Т. Баранаў (1866—68), А. Л. Патапаў (1868—74), П. П. Альбядзінскі (1874—80), Э. І. Татлебен (1880—84), А. П. Нікіцін (1884—86), М. С. Ганецкі (1886—95), В. М. Троцкі (1895—1901), А. В. Гурчын (1901—02), А.-Ф. К. Грыпенберг (1902—04), А. А. Фрэзэ (1904—05), К. Ф. Кршывіцкі (1905—09), С. К. Гершэльман (1909—10), Ф. У. Мартсон (1910—13), П. К. Рэненкампф (з 1913).

*Літ.:* Зайончковский П. А. Военные реформы 1860—1870 годов в России. М., 1952; Яго ж. Самодержавие и русская армия на рубеже XIX—XX столетий, 1881—1903. М., 1973. *А. М. Лукашэвіч.*

**ВІЛЕНСКАЯ ГУБЕ́РНЯ.** Існавала ў 1795—97 і 1801—1920 на тэр. Літвы і Беларусі (да 1840 Літоўска-Віленская губерня). Цэнтр — г. Вільня. Утворана пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795). 6.2.1797 зліта са Слонімскай губ. у адну *Літоўскую губерню.* Адноўлена паводле ўказа Аляксандра I (9.9.1801) пры падзеле апошняй на Гродзенскую і Віленскую губ. Уключала 11 паветаў: Ашмянскі, Браслаўскі (Новааляксандраўскі), Віленскі, Вількамірскі, Завілейскі, Ковенскі, Расіенскі, Трокскі, Упіцкі (Панявежскі), Цяльшэўскі і Шавельскі. У 1843 частка паветаў перададзена новаўтворанай Ковенскай губ. У складзе В. г. засталіся: Ашмянскі, Віленскі, Свянцянскі (Завілейскі) і Трокскі пав.; да іх далучаны з Гродзенскай губ. Лідскі, з Мінскай губ.— Дзісенскі і Вілейскі пав. Уваходзіла ў *Віленскае генерал-губернатарства.* Паводле перапісу 1897, нас. 1591,2 тыс. чал., з іх 56 % беларусаў, 17,6 літоўцаў, 12,7 яўрэяў, 8,2 % палякаў; па веравызнаннях: 58,8 % каталікаў, 27,7 праваслаўных, 12,9 % іудзеяў. У 1915 пл. губерні 36 825 кв. вёрст, нас. 2083 тыс. чал. У 1920 большая частка губерні акупіравана Польшчай, у 1922—39 уваходзіла ў склад *Віленскага ваяводства;* астатняя тэр. адышла да Літвы, невялікая частка Вілейскага пав.— да БССР.

Губернатары: А. В. Сямёнаў (1840—44), А. В. Росет (1852—?), М. М. Пахвіснеў (1857—63), І. У. Галер (1863), С. Ф. Панюцін (1863—68), І. А. Шастакоў (1868—69), Я. П. Сцеблін-Каменскі (1869—82?), А. М. Жамчужнікаў (? —1885), М. А. Грэвеніц (1885—96), І. І. Чапялеўскі (1896—?), кн. Грузінскі (1901), В. В. фон Валь (1901—?), К. К. Пален (1902—05), Дз. М. Любімаў (1906—?), П. У. Вяроўкін (1912—?) і інш.

Матэрыялы канцылярыі віленскага губернатара (ф. 380) і інш. губернскіх устаноў захоўваюцца ў ДГА Літвы, з'яўляюцца важнай крыніцай па гісторыі Літвы і Беларусі.

*Літ.:* Корева А. Материалы для географии и статистики России... Виленская губерния. Спб., 1861; История образования Виленской губернии // Памятная книжка Виленской губернии на 1901 г. Вильна, 1900. Ч. 2; Гошкевич И. И. Виленская губерния· Полный список насел. мест со стат. данными о каждом поселении, составленный по официальным сведениям. Вильна, 1905. *Г. В. Кісялёў.*

Герб Віленскай губерні. 1878.

**ВІЛЕНСКАЯ ЗАБАСТО́ЎКА РАБО́ЧЫХ 1932** у Заходняй Беларусі. Адбылася 16.3.1932 у падтрымку закліку Цэнтр. камісіі прафсаюзаў Польшчы і Польскай сацыяліст. партыі (ППС) ад 5 сак. выступіць супраць намераў польскага ўрада правесці праз сейм антырабочы законапраект. Паводле праекта закону былі прадугледжаны: павелічэнне рабочага дня, адмена скарочанай суботы, павышэнне ўзносаў на сац. страхаванне, паніжэнне памераў дзярж. дапамогі ў выпадку хваробы і інш.; рабочы мог атрымаць пенсію толькі пасля 36—48 гадоў працы пры дасягненні ўзросту 65 гадоў у памеры 21—76 злотых у месяц. Цэнтр. камісія прафсаюзаў Польшчы і кіраўніцтва ППС у знак пратэсту аб'явілі ўсеагульную забастоўку ў краіне. Але на справе яны не мелі намеру надаць ёй шырокі размах, бо баяліся, што да ўдзелу ў ёй далучыцца вял. колькасць працоўных. КПП і КПЗБ, якія адразу ўключыліся ў падрыхтоўку ўсеагульнай стачкі пратэсту, імкнуліся прыцягнуць да ўдзелу ў ёй як мага больш працоўных. Віленскі гарком КПЗБ заклікаў усіх рабочых горада спыніць 16 сак. працу, выходзіць на вуліцы, праводзіць дэманстрацыі і мітынгі. У гэты дзень у Вільні баставалі ўсе рабочыя каналізацыі, маслабойнага з-да, дробных прадпрыемстваў, друкары і інш. (усяго больш за 2 тыс. чал.). Камуністы арганізавалі некалькі масовак, якія ў шэрагу месцаў ператварыліся ў дэманстрацыі. Адбыліся сутычкі з паліцыяй. Масавыя выступленні пралетарыяту краіны, у якіх удзельнічала 0,5 млн. чал., прымусілі ўрад Польшчы адкласці прыняцце сеймам новых антырабочых законаў. *І. Ф. Дзяшко.*

**ВІЛЕНСКАЯ ЗЯМЛЯ́,** назва Віленшчыны ў 1922—25. Утворана пастановай СМ Польшчы ад 6.4.1922 у час *Віленскага канфлікту 1920—39.* У склад В. з., якая існавала на правах ваяводства, уключаны Ашмянскі, Браслаўскі, Віленскі, Свянцянскі і Трокскі паветы, з Навагрудскага ваяводства перададзены Вілейскі, Дзісенскі і Дунілавіцкі пав. Адм. цэнтр — г. Вільня. Пастановай СМ Польшчы ад 22.12.1925 В. з. перайменавана ў *Віленскае ваяводства.*

**ВІЛЕНСКАЯ КАНФЕДЭРАЦЫЯ 1716,** саюз беларускай і літоўскай шляхты ў ВКЛ, накіраваны супраць палітыкі абсалютызму, што намагаўся весці ў Рэчы Паспалітай кароль Аўгуст II Моцны. Пасля часовай страты трона ў Варшаве ў час *Паўночнай вайны 1700—21* Аўгуст II вярнуўся ў Польшчу, дзе пачаў узмацняць сваю ўладу. Дзеля гэтага ён увёў свае саксонскія войскі на тэр. Рэчы Паспалітай, бо адначасова з'яўляўся курфюрстам Саксоніі. Утрыманне гэтага войска, увядзенне новых падаткаў, рабаванні саксонскіх салдат выклікалі супраціўленне шляхты, гараджан і сялян. У Тарнагродзе (Польшча) 27.11.1715 была створана канфедэрацыя польскай шляхты, каб са зброяй у руках змагацца супраць каралеўскага абсалютызму, за «залатую шляхецкую вольнасць». Расійскі цар Пётр I не хацеў узмацнення ўлады караля, таму падтрымаў канфедэратаў. 23.3.1716 на шляхецкім з'ездзе ў Вільні была ўтворана В. к. Яе маршалкам выбраны ашмянскі харужы Крыштоф Сулістроўскі. В. к. далучылася да *Тарнагродскай канфедэрацыі,* якая патрабавала вываду саксонскіх войск з Рэчы Паспалітай. Падтрымалі В. к. войска ВКЛ, бел. і літ. магнаты, якія і да гэтага выступалі за абмежаванне ўлады караля. Атрады канфедэратаў змагаліся з каралеўскімі войскамі на тэр. ўсёй Рэчы Паспалітай. Пасрэднікам паміж варожымі бакамі выступіў Пётр I, які прывёў на тэр. Рэчы Паспалітай свае войскі, умацаваўшы такім чынам паліт. пазіцыі Расіі ў Рэчы Паспалітай. Пасля доўгіх, з перапынкамі, перагавораў пад націскам Пятра I і рус. дыпламатаў 3.11.1716 у Варшаве было падпісана пагадненне паміж каралём Аўгустам II і Тарнагродскай і Віленскай канфедэрацыямі. 30.1.1717 гэта пагадненне ратыфікавана і 1.2.1717 зацверджана «нямым соймам» (акрамя маршалка Лядухоўскага, які абвяшчаў дакументы, нікому не далі права голасу, каб не сарваць сойм). Пастанова сойма была кампрамісам паміж каралеўскім дваром і канфедэратамі. Саксонскія войскі выводзіліся з Рэчы Паспалітай; улада караля абмяжоўвалася: ён не меў права пачынаць вайну без згоды сойма, арыштоўваць шляхціцаў без судовага прыгавору, раздаваць пасады чужаземцам і асабліва дысідэнтам (некатолікам). Правы шляхты пашыраліся (зацвярджалася права liberum veto), польская армія скарачалася да 18 тыс. чал., а войска ВКЛ да 6 тыс., у той час як арміі суседніх дзяржаў мелі дзесяткі і сотні тыс. салдат. Абмяжоўвалася вайск. улада гетманаў. Узмацніўся ўплыў Расіі на ўнутр. справы Рэчы Паспалітай.

*Літ*.: Szujski J. Dzieje Polski. T. 4, cz. 2. Lwów, 1866. *А. П. Грыцкевіч*.

**ВІЛЕНСКАЯ МЕ́ДЫКА-ХІРУРГІ́ЧНАЯ АКАДЭ́МІЯ,** вышэйшая навучальная ўстанова. Існавала ў Вільні ў 1832—42. Створана на базе мед. ф-та зачыненага *Віленскага універсітэта*. Мела значнае самакіраванне: права складаць праграмы лекцый, выбіраць загадчыкаў кафедраў, бяспошлінна ўвозіць з-за мяжы кнігі, пасылаць маладых вучоных на стажыроўку ў замежныя ун-ты і інш. Прафесары акадэміі: А. Абіхт (паталогія), А. Адамовіч (ветэрынарыя), С. Горскі (батаніка), Ф. Джэвінскі (фізіка), Ю. Каранеўскі (хірургія), І. *Лабойка* (рус. літаратура), М. Мяноўскі (акушэрства), Ю. Мяноўскі (фізіялогія), К. Парцянка (хірургія), Ф. Рымкевіч (тэрапія), І. Фонберг (хімія), Э. Эйхвальд (заалогія), І. Якавіцкі (мінералогія) і інш. Дырэктар бібліятэкі П. *Кукальнік*. Выкладанне вялося на лацінскай, рус. і польскай мовах. Студэнты працягвалі традыцыі *філаматаў* і *філарэтаў*. Сярод іх распаўсюджваліся перадавыя грамадска-паліт. ідэі, забароненая літаратура патрыятычнага зместу. У 1836—38 у акадэміі існавала тайная арг-цыя *«Дэмакратычнае таварыства»*, выкрыццё і разгром якой вызначылі лёс акадэмі. Перастаў выходзіць навук. часопіс акадэміі (выдадзены толькі 1 нумар), у 1840 распушчаны першыя тры курсы, у жн. 1842 канчаткова закрыта Мікалаем І. Прафесары акадэміі атрымалі пасады ў розных ун-тах Расіі. Студэнты мелі права завяршыць адукацыю ў любой вышэйшай навуч. установе Расіі, акрамя Кіеўскага ун-та. Бібліятэка акадэміі (больш за 20 тыс. тамоў), кабінеты, гербарыі і інш. перавезены ў Кіеўскі ун-т, дзе на іх базе створаны мед. факультэт.

філасофіі; царкоўнай гісторыі і кананічнага права; гамілетыкі разам з вышэйшым курсам гісторыі польскай л-ры; старaж.-грэчаскай і лацінскай л-ры; рускай л-ры; усеагульнай гісторыі; моў (старaж.-яўрэйскай, французскай, ням.). Працавалі 7 прафесараў (Я. Бароўскі, К. Ленартовіч, Я. Скідзель, А. Фіялкоўскі і інш.), 3 ад'юнкты і 3 лектары. На ўсіх курсах займалася каля 400 студэнтаў. Тэалагічныя дысцыпліны выкладаліся на лацінскай мове, астатнія на рускай. Акадэмія мела права прысвойваць навук. ступені магістра і доктара тэалогіі, а таксама доктара кананічнага права. Рэктары А. Асінскі (1834—39), Фіялкоўскі (1839—42). У 1842 пераведзена ў Пецярбург, дзе стала базай для стварэння Пецярбургскай рымска-каталіцкай духоўнай акадэміі (дзейнічала да 1918). *В. Ф. Шалькевіч.*

**ВІ́ЛЕНСКАЯ ЦЭНТРА́ЛЬНАЯ ГРУ́ПА «НАРО́ДНАЙ ВО́ЛІ»**, гл. ў арт. *Арганізацыя «Народнай волі» ў Паўночна-Заходнім краі.*

**«ВІ́ЛЕНСКІ АЛЬБО́М»**, пашыраная ў гістарычнай л-ры ўмоўная назва краязнаўча-літ. зборніка, выдадзенага ў 1858 у Вільні з нагоды прыезду цара Аляксандра II. Поўная назва (на рус. і польск. мовах) «У памяць знаходжання гасудара імператара Аляксандра II у Вільні 6 і 7 верасня 1858 г.». Выданне Віленскай археалагічнай камісіі. Ініцыятарам выдання быў А. *Кіркор,* які змясціў у зб-ку вялікую (больш як на 150 стар.) працу на рус. мове «Гісторыка-статыстычныя нарысы горада Вільні», якая складалася з 3 частак: «Гістарычны нарыс», «Статыстычны нарыс» і «Славутасці горада Вільні». Па сутнасці гэта быў папулярны, напісаны з замілаваннем і веданнем справы даведнік пра горад (прыкладаўся і план). Кіркор адзначыў, у прыватнасці, поліэтнічны характар горада, згадаў Ф. Скарыну як пачынальніка кнігадрукавання ў Вільні. У зб-ку ўдзельнічалі таксама: паэт А. *Адынец* (адпаведны падзеі ўрачысты верш на польскай мове), пісьменнік І. Ходзька (узнёслы вернападданніцкі артыкул на польскай мове), гісторык М. Маліноўскі (такога ж характару артыкул на французскай мове). Высокі паліграфічны ўзровень выдання забяспечыла віленская выдавецкая фірма Ю. Завадскага. Асобным адбіткам надрукаваны дадатак з вершам В. Каратынскага на бел. мове лацінкай і кірыліцай «Уставайма, братцы!..» (поўная назва «Найяснейшаму яго милосьци гаспадару императару Александру Мнкалаявичу песьня з паклонам ад литовско-русинскаи мужыцкаи грама́ды. Списав Винцесь Коротыньскн») і вершам М. Акялайціса на літ. мове. Сучасныя даследчыкі прачытваюць у таленавітым вершы Каратынскага глыбокі падтэкст, адзначаюць шматзначнасць і народнасць гэтага твора. Факт публікацыі вершаў сведчыў пра рост нац. свядомасці бел. і літ. народаў, пэўнае прызнанне іх самабытнасці. Выданне В. а. было ўспрынята польскай і замежнай прэсай як адступніцтва ад ідэалаў вызваленчага руху. Экземпляр зб-ка (без дадатка) ёсць у ЦНБ АН Беларусі, дадатак — у Б-цы АН Літвы ў Вільнюсе.

*Літ.:* Мальдзіс А. Падарожжа ў XIX ст. Мн., 1969. С. 68—71; Пачынальнікі. Мн., 1977. С. 319; Janulajtis A. Mikalojus Akelaitis. Vilnius, 1969. S. 24—26. *Г. В. Кісялёў.*

**ВІ́ЛЕНСКІ ЕЗУІ́ЦКІ КАЛЕ́ГІУМ**, сярэдняя навучальная ўстанова класічнага тыпу. Існавала ў Вільні ў 1570—79. У 1579 пераўтворана ў акадэмію. Гл. ў арт. *Віленскі універсітэт.*

**«ВІ́ЛЕНСКІ ЗБО́РНІК»**, «Виленский сборник», гістарычна-этнагр., краязнаўчы зборнік. Выдадзены ў 1869 у Вільні на рус. мове. Рэдактар-выдавец В. П. Кулін. Імкнуўся спалучыць русіфікатарскія ідэі мураўёўскай адміністрацыі з вывучэннем і прапагандай «карысных звестак пра паўночна-заходнія губерні». Побач з тэндэнцыйнымі публіцыстычнымі матэрыяламі змясціў гіст.-этнагр., у тым ліку ўрывак з мемуараў Г. І. *Дабрыніна* (апублікаваны ўпершыню), «Нарысы побыту заходнярускага селяніна» Ю. Крачкоўскага, гіст. нататкі І. Катовіча пра кобрынскія праваслаўныя цэрквы, этнагр. артыкулы Ф. Стаўровіча пра вёскі Кобрынскага пав. *С.А. Кузняева.*

**ВІ́ЛЕНСКІ КАНФЛІ́КТ 1920—39**, канфлікт паміж Польшчай і Літвой з-за Вільні і Віленшчыны. Паводле сав.-літ. дагавора ад 12.7.1920, Вільня і ваколіцы ўключаны ў склад Літвы. Правы Літвы на гэту тэрыторыю ў ліп. 1920 пацвердзіў польскі ўрад на канферэнцыі саюзнікаў у г. Спа (Бельгія) і ў польска-літ. дагаворы ад 7.10.1920. Але 9.10.1920 польскія войскі пад камандаваннем ген. Л. Жалігоўскага акупіравалі Віленскую вобл. Каб зняць з сябе адказнасць, польскі ўрад заявіў, што Жалігоўскі дзейнічаў «самачынна». Ліга Нацый вырашыла правесці плебісцыт у Віленскай вобл. і для «забеспячэння парадку» ўвесці туды замежныя войскі. Літва адмовілася ад такой прапановы, яе падтрымаў і сав. ўрад (ноты ад 11 і 16.12. 1920). На польска-літ. перагаворах у 1921 Ліга Нацый спрабавала зрабіць Віленскую вобл. аўтаномнай з умовай уступлення Літвы ў унію з Польшчай. Літоўскі ўрад зноў адмовіўся. 8.1.1922 польскі ўрад правёў выбары ў часовы сейм т. зв. *Сярэдняй Літвы,* які 20.2. 1922 прыняў рашэнне пра далучэнне Віленшчыны да Польшчы. 24.3.1922 гэта рашэнне пацвердзіў Варшаўскі сейм. Пастановай СМ Польшчы ад 6.4.1922 была ўтворана *Віленская зямля* на правах ваяводства. 15.3.1923 канферэнцыя паслоў Англіі, Францыі, Італіі і Японіі вызначыла польска-літ. граніцу, пакінуўшы Віленскую зямлю за Польшчай. Літоўскі і сав. ўрады не прызналі гэтага рашэння. 22.12.1925 Віленская зямля перайменавана ў Віленскае ваяводства. У вер. 1939 у выніку вызвалення Чырв. Арміяй Зах. Беларусі ад польскіх войск былі вызвалены Вільня і Віленшчына і ўтворана Віленская вобл. Паводле дагавора Літвы і СССР ад 10.10.1939, яны перададзены ў склад Літвы.

*Літ.:* История дипломатии. Т. 3. 2 изд. М., 1965. *М. І. Камінскі.*

**ВІ́ЛЕНСКІ МАНЕ́ТНЫ ДВОР**, асноўны цэнтр манетнай вытв-сці ВКЛ. Існаваў з канца 15 ст. да 30.12.1667. Да вытворчасці В. м. д. адносяць і сярэбраныя дэнарыі Вітаўта [1392—1430]. Пры Аляксандру Ягелончыку [1492—1506] выпускаў сярэбраныя манеты наміналам ад дэнарыя да гроша; пры Жыгімонце І Старым [1506—48] — паўгрошы і грошы; пры Жыгімонце II Аўгусце [1548—72] быў агульнадзярж. манетным дваром Рэчы Паспалітай, вырабляў наміналы ад дэнарыя да партугала (залатая манета); пры С. Баторыі [1576—86] выпускаў наміналы ад дэнарыя да дуката; пры Жыгімонце III Вазе [1587—1632] — ад соліда да партугала; пры Уладзіславе IV [1632—48] — партугалы; пры Яне II Казіміры [1648—68] — ад соліда да дуката. Да Люблінскай уніі 1569 манеты выпускаліся з выявай *«Пагоні»* на асобнай стапе. У час праўлення С. Баторыя з уніфікацыяй грашовай вытв-сці Рэчы Паспалітай на манеце адціскаліся гербы ВКЛ і Каралеўства Польскага, а пры Яне II Казіміры аднавілі «Пагоню». Манеты В. м. д. вылучаюцца па гербах падскарбіяў вял. літоўскіх або па знаках арандатараў двара. Медныя соліды 1664—66 падобны на соліды 1665—66 *Брэсцкага манетнага двара.* Вядомы лічыльныя жэтоны сярэдзіны 16— пач. 17 ст. В. м. д. са знакамі падскарбіяў літоўскіх.

*Літ.:* Gumowski M. Mennica Wileńska w XVI i XVII wieku. Warszawa, 1921. *І. І. Сінчук.*

**ВІ́ЛЕНСКІ МУЗЕ́Й СТАРАЖЫ́ТНАСЦЕЙ.** Засн. 29.4.1855 Я. П. Тышкевічам, адкрыты 1.12.1856 у будынку б-кі Віленскага ун-та. У сувязі з *паўстаннем 1863—64* музей быў падвергнуты рэвізіі. Шмат экспанатаў адпраўлена ў Маскву, але пад націскам грамадскасці частка іх пазней вернута. Рэканструяваны і зрусіфікаваны музей праіснаваў да пач. 1-й сусв. вайны. Аддзелы: археалогія, этнаграфія, мастацтва, зброя, мінералогія, арніталогія. Свае калекцыі музею перадалі Я. і К. Тышкевічы, У. Сыракомля, А. К. Кіркор, Т. У. Нарбут, М. І. Балінскі, Ф. К. Багушэвіч, І. Р. Кулакоўскі, К. А. Буйніцкі, А. А. Плятар і інш. У канцы 19 ст. ў фондах налічвалася больш за 12 тыс. экспанатаў, у т. л. старaж. рукапісы, інкунабулы, рэдкія выданні 15—18 ст., багатыя калекцыі зброі, слуцкіх паясоў, габеленаў, графікі, скульптуры, партрэтаў магнацкіх родаў (Радзівілаў, Тышкевічаў, Хадкевічаў, Храптовічаў, Сапегаў), гербаў гарадоў Беларусі і Літвы, этрускіх ваз, японскіх, італьянскіх і кітайскіх тканін, фарфору, бронзавых вырабаў, нумізматычныя калекцыі (у 1858 было 3264 антычныя, усх., рус., польска-літ., заход-

неeўрапейскія манеты). Пераважная большасць матэрыялаў была з Беларусі: археал. знаходкі, граматы 12—14 ст. аб сувязях полацкіх князёў з ганзейскімі гарадамі, каменныя ідалы са Случчыны, кальчуга са слав. надпісамі з Оршы (экспануецца ў Маскоўскім гіст. музеі), ядры з Мінскага замка, пячатка з Крэва, стараж. рэчы з Каложскай царквы ў Гродне, карэліцкія габелены і інш. У фондах музея ўпершыню выкарыстаны метад захавання прадметаў па аднароднасці матэрыялаў, з якіх яны зроблены (метал, дрэва, шкло, тканіны, косць, камень, папера і г. д.). Пры В. м. с. дзейнічала *Віленская археалагічная камісія.* Большасць экспанатаў гэтага музея цяпер зберагаецца ў гіст.-этнаграфічным музеі АН Літвы і Рэсп. мастацкай галерэі Літвы, Музеі бурштыну (г. Паланга), Дзярж. гіст. музеі (Масква), Нар. музеі (Варшава).

*Літ.:* Каталог предметов Музея древностей, состоящего при Виленской публичной библиотеке. 2 изд. Вильна, 1885; Виленский музей древностей. Вильна, 1892; Каханоўскі Г. А. Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў XVI—XIX стст. Мн., 1984. *Г. А. Каханоўскі.*

**ВІЛЕНСКІ НАЦЫЯНА́ЛЬНЫ БЕЛАРУ́СКІ КАМІТЭ́Т,** Вільнацбелком, гл. *Беларускі нацыянальны камітэт.*

**ВІЛЕНСКІ ПАВЕ́Т.** Існаваў у 15—20 ст. Утвораны ў складзе ВКЛ пасля Крэўскай уніі 1385 на тэр. б. Віленскага княства; уваходзіў у Віленскае ваяводства. Тэр. павета ўдакладнена ў ходзе адм.-тэр. рэформы 1565—66 і замацавана *Статутам Вялікага княства Літоўскага 1588.* Паводле 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) павет адышоў да Расійскай імперыі, з 14.12.1795 у складзе Віленскай, з 12.7.1797 Літоўскай, з 9.9.1801 зноў Віленскай губ. Павятовы цэнтр — г. Вільня. Плошча павета 5434 кв. вярсты, насельніцтва (без гарадоў) 355 855 чал. (1897). Жылі літоўцы, беларусы, яўрэі, палякі, рускія. У складзе павета было 19 валасцей: Быстрыцкая, Варнянская, Гедройцкая, Гельванская, Гуранская, Ільінская, Маляцкая, Мейшагольская, Міцкунская, Мусніцкая, Немянчынская, Падбярэзская, Рашанская, Рудомінская, Рукойнская, Салечніцкая, Шумская, Шырвінцкая і Янішкаўская; г. Нова-Вілейск, мястэчкі Астравец, Буйвіды, Быстрыца, Варняны, Відзенішкі, Вялікія Салечнікі, Гедройцы, Гелванты, Гервяты, Дубінкі, Інтуркі, Кена, Кернова, Лаварышкі, Маляты, Малыя Салечнікі, Меднікі, Мейшагола, Міхалішкі, Муснікі, Немянчын, Падбярэззе, Рубна, Рудоміна, Рукойні, Табарышкі, Тургелі, Чабышкі, Шамалі, Шумск, Шырвінты, Янішкі, 3059 паселішчаў сельскага тыпу. У 1-ю сусв. вайну павет у жн. 1915 амаль цалкам акупіраваны герм. войскамі. З студз. 1919 В. п. у складзе Літоўскай ССР, з канца лютага 1919 — Літоўска-Беларускай ССР, з крас. 1919— Польскай дзяржавы. У ліп. 1920 заняты Чырвонай Арміяй. Паводле мірнага дагавора паміж РСФСР і Літвой ад 12.7. 1920 разам з інш. паветамі і г. Вільняй перададзены Літве. 9.10.1920 акупіраваны польскімі войскамі пад камандаваннем ген. Л. Жалігоўскага (гл. *Віленскі канфлікт 1920—39*). Пастановай СМ Польшчы ад 6.4.1922 В. п. уключаны ў склад *Віленскай зямлі.* *М. І. Камінскі*

**ВІЛЕНСКІ ПРЫВІЛЕ́Й 1563,** заканадаўчы акт, якім фармальна былі ўраўнаваны ў палітычных правах праваслаўныя феадалы ВКЛ з феадаламі-католікамі. Выдадзены на бел. мове вял. князем ВКЛ і каралём Польшчы Жыгімонтам II Аўгустам 7.6.1563 на віленскім сойме. Тэкст прывілея ў якасці прэамбулы ўвайшоў у *Статут Вялікага княства Літоўскага 1566.* У прывілеі сцвярджалася, што «...иж от того часу не только тые панове, шляхта и бояре, або потомкове их, всих земль наших того всего паньства нашого, дарованья привильев н наданья всих вольностей и прав земских уживати и с них ся веселити мають, которые суть поддани костелу римскому и которых те жъ предкове клейноты и гербы в Коруне Польской приймовали, але те жъ и вси иные стану рыцерского и шляхетского, яко литовского, так и руского народу, одно бы были веры хрестиянское, и те жъ которых предкове клейнотов альбо гербов с Коруны Польское не брали, одинако и заровно того всего вечными часы уживати и с тых вольностей веселитися мають, яко перед тым, здавна и до того часу, тых всих вольностей стан рыцерский шляхетский обоего народу, так литовского, яко и руского, уживали и с того ся веселили». Далей у прывілеі было запісана, што праваслаўныя шляхціцы, як і каталікі, могуць займаць розныя дзярж. пасады. Прывілей засведчыў, што дыскрымінацыйныя адносна праваслаўнай шляхты ВКЛ нормы *Гарадзельскага прывілея 1413* фактычна і раней не дзейнічалі (асабліва пасля прыняцця *прывілея 1434* і *прывілея 1447*). Таму В. п. 1563 меў не столькі практычнае значэнне, колькі фармальнае і быў выдадзены з мэтай паліт. кансалідацыі шляхты пасля няўдач у *Лівонскай вайне 1558—83,* у час правядзення *валочнай памеры,* напярэдадні заключэння *Люблінскай уніі 1569.*

*Літ.:* Любавский М. К. Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно. 2 изд. [М.], 1915; Юхо І. Крыніцы беларуска-літоўскага права. Мн., 1991. С. 192; Белоруссия в эпоху феодализма. Мн., 1959. Т. 1 С. 141—143. *І. А. Юхо*

**ВІЛЕНСКІ СВЯТАДУ́ХАЎСКІ МАНАСТЫ́Р.** Заснаваны ў Вільні пры Святадухаўскай праваслаўнай царкве, пабудаванай у 1597 на сродкі дачок смаленскага ваяводы Рыгора Валовіча Фядоры і Ганны і перададзенай Віленскаму Траецкаму праваслаўнаму брацтву. Пачатак дзейнасці манастыра дакладна не высветлены. У 1609 Траецкі манастыр

быў перададзены базыльянам, а праваслаўнае брацтва перайменавана ў Святадухаўскае. У гэты манастыр была перавезена друкарня брацтва. Да 1686 В. С. м. быў падпарадкаваны канстанцінопальскаму патрыярху, пазней — маскоўскаму. З'яўляўся *архімандрыяй*, яму былі падпарадкаваны 17 мужчынскіх і 2 жаночыя манастыры на Беларусі і ў Літве, у т. л. Петрапаўлаўскі ў Мінску, Еўінскі ў Трокскім ваяв., Цеперскі і Сноўскі ў Навагрудскім ваяводстве. Настаяцелямі манастыра былі Л. *Карповіч* (1-ы настаяцель), М. *Смятрыцкі*, Іосіф Бабрыковіч, Іосіф Нелюбовіч-Тукальскі, Рыгор Яноўскі і інш. Манастыр валодаў значнымі матэрыяльнымі сродкамі, у т. л. маенткамі, дамамі, млынамі, частка якіх складалася з ахвяраванняў сяброў Святадухаўскага праваслаўнага брацтва. Прымаліся ахвяраванні і з Масквы. Ад часу заснавання В. С. м. не перапыняў сваёй дзейнасці. Цяпер ён падпарадкаваны архіепіскапу Віленскаму і Літоўскаму. *Г. А. Кухарчык.*

**ВІЛЕНСКІ УНІВЕРСІТЭТ**, найстарэйшая навучальная ўстанова на тэр. Беларусі і Літвы. Заснаваны ў Вільні ў 1570 езуітамі як калегіум. У 1578 польск. кароль Стэфан Баторый выдаў прывілей (зацверджаны 30.10.1579 булай папы Грыгорыя XIII), на падставе якога калегіум пераўтвораны ў акадэмію, што давала права прысвойваць вучоныя ступені, мець выбарную адміністрацыю, правы ўласнай юрысдыкцыі. Першы рэктар — ідэолаг Контррэфармацыі ў Рэчы Паспалітай П. *Скарга*. Акадэмія мела філасофскі і тэалагічны ф-ты. На першым выкладаліся ўсе гуманітарныя і прыродазнаўчыя навукі таго часу: фізіка, метафізіка, матэматыка, логіка, рыторыка, паэтыка, геаграфія, старажытныя (грэчаская, лацінская, яўрэйская) і новыя (нямецкая, французская) мовы; на другім — свяшчэннае пісанне, тэалогія (палемічная, маральная, схаластычная), кананічнае права, казуістыка. Студэнты абодвух факультэтаў вывучалі бел. мову. Як тэарэт. цэнтр Контррэфармацыі, акадэмія імкнулася да духоўнай манаполіі каталіцкай царквы, змагалася супраць лютэранства, кальвінізму і сацыніянізму (антытрынітарызму), пашыраных на бел., укр. і літоўскіх землях у гады Рэфармацыі.

Акадэмію падтрымлівалі каталіцкае духавенства, мясцовыя магнаты і шляхта, у т. л. віленскія біскупы В. Пратасевіч, А. Валовіч, К. Бжастоўскі, суфраган М. Пац, кардынал Ю. Радзівіл і інш. У 1585 М. Радзівіл Сіротка перавёз з Брэста ў Вільню і перадаў акадэміі друкарню свайго бацькі. Значную матэрыяльную падтрымку акадэміі аказваў сын бел. дзярж. дзеяча Льва Сапегі — Казімір Леў Сапега, які перадаў акадэміі каштоўную бібліятэку, а таксама адыграў вырашальную ролю ў адкрыцці ў акадэміі ў 1641 юрыд. ф-та. Ён ахвяраваў акадэміі 12 500 злотых на ўтрыманне на юрфаку 4 прафесараў-юрыстаў. У 1753 на сродкі мсціслаўскай кашталянкі Лізаветы Пузыны тут

Вялікі двор Віленскага універсітэта. Літаграфія. 1850.

заснавана астранамічная абсерваторыя.

Апрача служыцеляў культу акадэмія рыхтавала выкладчыкаў для езуіцкіх сярэдніх навуч. устаноў — калегіумаў, якія ў хуткім часе былі ўтвораны амаль ва ўсіх буйных гарадах Беларусі — у Полацку, Нясвіжы, Навагрудку, Мінску, Оршы, Магілёве, Брэсце, Гародні, Віцебску. Гэта мела вял. значэнне для пашырэння асветы на Беларусі, знаёмства бел. грамадства з дасягненнямі заходнееўрап. навук, падрыхтоўкі нац. інтэлігенцыі; адначасова гэта спрыяла ўмацаванню каталіцкай царквы. Паводле прыблізных падлікаў з 1583 да 1781 акадэмія прысвоіла сваім выпускнікам 4076 навук. ступеняў, у т. л. па філасофіі 3510, па праву 149, па тэалогіі 417. Сярод найб. вядомых выпускнікоў акадэміі Мялецій *Смятрыцкі*, К. *Сарбеўскі*, *Сімяон Полацкі*, А. *Каяловіч*, А. *Алізароўскі*.

У сувязі са спыненнем дзейнасці ордэна езуітаў (у 1773 булай папы Клімента IV ён распушчаны ва ўсіх краінах і дзейнічаў толькі на бел. землях, далучаных да Расіі паводле 1-га падзелу Рэчы Паспалітай, і ў Прусіі) акадэмія перайшла пад апеку *Адукацыйнай камісіі*, якая пераўтварыла яе ў вышэйшую навуч. ўстанову новага тыпу, і з 1781 наз. Галоўная школа ВКЛ. Куратарам Гал. школы стаў бел. дзеяч Іахім Храптовіч (гл. ў арт. *Храптовічы*), рэктарам прызначаны бел. матэматык і астраном М. *Пачобут-Адляніцкі*, які, займаючы гэту пасаду каля 20 гадоў, правёў у школе рэформу і надаў адукацыі амаль свецкі характар. Школа мела маральны і фізічны ф-ты. На першым факультэце выкладаліся гісторыя грэчаскай і рымскай літаратуры, права (натуральнае, агульнае, рымскае і беларускае), агульная гісторыя, свяшчэннае пісанне, дагматычная і маральная тэалогія, гісторыя царквы і кананічнае права, красамоўства; на другім — арыфметыка, геаметрыя, вышэйшая матэматыка, астраномія, механіка, фізіка, хімія, прыродазнаўства, медыцына. З Гродна сюды былі пераведзены і далучаны да Гал. школы мед. школа (гл. *Гродзенская медыцынская акадэмія*) і інстытут спавівальнага майстэрства (на чале з кіраўніком гэтых устаноў Ж. *Жылíберам*), на базе якіх тут заснаваны трэці факультэт — медыцынскі. Жылібер перавёз таксама з Гродзенскага батанічнага саду ў Вільню рэдкія расліны і заснаваў у 1781 пры Гал. школе батанічны сад. Яго пачынанні працягваў нямецкі натураліст І. Форстэр, запрошаны ў 1784 у Вільню Адукацыйнай камісіяй, а пазней — С. Юндзіл (гл. ў арт. *Юндзілы*), які ў 1799 перанёс батанічны сад з тэр. школы на бераг р. Вілейкі да падножжа Замкавай і Трохкрыжовай гор.

У Гал. школе на высокім узроўні было пастаўлена выкладанне хіміі. З 1797 прафесарам хіміі і фармацэўтыкі стаў А. *Снядэцкі*, які на аснове сваіх віленскіх лекцый стварыў першы універсітэцкі падручнік па хіміі (т. 1—2. Вільня, 1800). Інтэнсіўныя астранамічныя даследаванні і метэаралаг. назіранні праводзіў тут Пачобут-Адляніцкі. Ён вызначыў геагр. каардынаты многіх нас. пунктаў Беларусі. Дасягненні абсерваторыі высока ацаніў французскі астраном 18 ст. Ж. Лаланд і на падставе назіранняў Пачобута склаў новыя табліцы руху Меркурыя.

Пасля 2-га і 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793, 1795) і далучэння зямель ВКЛ да Расійскай імперыі Гал. школа падпарадкавана расійскаму ўраду і з 1796 наз. Галоўнай Віленскай школай. У 1803 яна рэарганізавана ва універсітэт з 4 ф-тамі: маральных і паліт. навук, фізіка-матэматычным, медыцынскім, літаратурным і вольных мастацтваў. Выкладалі ў ім 34 прафесары і 12 ад'юнктаў (пам. прафесараў). Рэктарамі ун-та былі ў 1803—06 І. *Страйноўскі*, у 1806—15 Я. Снядэцкі (апошні працягваў курс на развіццё прыродазнаўчых навук). Вучонымі ун-та былі дасягнуты значныя поспехі. Так, прафесар параўнальнай анатоміі Г. Баянус у сваіх працах наблізіўся да эвалюц. вучэння Ч. Дарвіна. А. Снядэцкі ў працы «Тэорыя арганічных істот» (т. 1—2, 1804—11), перакладзенай на нямецкую і французскую мовы, адным з першых у Еўропе абгрунтаваў ідэю аб кругавароце элементаў у прыродзе. Выдатны плён дала дзейнасць праф. медыцыны І. Франка. Вучоныя-грамадазнаўцы распрацоўвалі гіст. і гісторыка-юрыд. праблемы, звязаныя з мінулым Беларуска-Літоўскай дзяржавы, пра што сведчаць працы І. *Анацэвіча*, М. *Баброўскага*, І. *Даніловіча*, І. *Лялевеля*, Т. *Чацкага*, Ю. *Ярашэвіча*. Пры ун-це дзейнічалі мед., ветэрынарны, агранамічны ін-ты, добра абсталяваная астранамічная абсерваторыя, адзін з самых багатых у

Еўропе батанічных садоў (паводле каталога 1824 каля 7 тыс. раслін), першы ў Расіі заалаг. музей, 3 клінікі, аптэка, найбагацейшая бібліятэка (гл. *Бібліятэка навуковая Вільнюскага універсітэта*), шмат добра абсталяваных кабінетаў. З 1805 ун-т выдаваў штомесячны навукова-літ. часопіс «Dziennik Wileński» («Віленскі дзённік»). Ун-т падтрымліваў навук. сувязі з Расійскай Акадэміяй навук, з Маскоўскім, Казанскім, Варшаўскім, Кракаўскім і інш. ун-тамі. Ён з'яўляўся таксама цэнтрам *Віленскай навучальнай акругі*, утворанай у 1803, распрацоўваў для школ Беларусі і Літвы навучальныя праграмы, выдаваў падручнікі. Адукацыя, атрыманая ў В. у., не саступала той, якую давалі лепшыя тагачасныя ун-ты Зах. Еўропы. З яго сцен выйшлі вядомыя паэты і пісьменнікі А. *Міцкевіч*, Ю. Славацкі, Ю. *Крашэўскі*, гісторык І. Даніловіч, урачы А. *Бекю*, В. *Гіндэнбург*, геолаг І. *Дамейка* і інш. У апошнія гады існавання В. у. з 47 прафесараў 36 былі ўраджэнцамі Беларусі і Літвы. Ун-т быў цэнтрам перадавой навук. і грамадскай думкі. У 1816 тут узнікла легальнае т-ва *шубраўцаў*, ядро якога складалі выкладчыкі ун-та. Т-ва выдавала штотыднёвую газ. «Wiadomości Brukowe» («Вулічныя навіны», рэдактар А. Снядэцкі), якая адзначала цяжкае становішча сялянства, маральную дэградацыю шляхты, выкрывала рэлігійны фанатызм. Паламіка паміж прафесарамі В. у. і *Полацкай езуіцкай акадэміі*, якая разгарнулася на старонках «Вулічных навін» і «Віленскага дзённіка» з аднаго боку і час. «Miesięcznik Połocki» («Полацкі штомесячнік») з другога, мела вял. значэнне для развіцця перадавой грамадскай думкі, для абуджэння грамадскай свядомасці. У 1817 ва ун-це ўтворана тайнае студэнцкае т-ва *філаматаў* (сяброў навукі). Побач з Міцкевічам, які ў той час вучыўся ва ун-це, сярод арганізатараў т-ва былі Т. *Зан*, Я. *Чачот*, А. *Ходзька* і інш. У 1820 ў складзе т-ва філаматаў узнікла нелегальная арг-цыя — *філарэты*. Пад уплывам польскага патрыятычнага нац.-вызв. руху студэнты пачалі распрацоўваць паліт. праграму, найважнейшым пунктам якой былі патрабаванне нац. незалежнасці і знішчэнне прыгоннага права. Дзякуючы існаванню тайных т-ваў і прагрэсіўнай дзейнасці прафесараў сярод студэнтаў распаўсюджваліся антыфеад., антысамадзяржаўныя і патрыятычныя ідэі. Ун-т стаў калыскай будучых арганізатараў і ўдзельнікаў паўстання 1830—31 — трэцяя частка студэнтаў прыняла ў ім удзел. Гэта вызначыла лёс навук. установы: у 1832 расійскі імператар Мікалай І закрыў В. у. На яго базе былі створаны 2 акадэміі — Духоўная рымска-каталіцкая і Медыка-хірургічная, якія царскі ўрад у 1842, з мэтаю аслаблення нац.-вызв. руху на бел. і літ. землях, перавёў адпаведна ў Пецярбург і Кіеў. У сценах б. ун-та засталася толькі абсерваторыя, у якой яшчэ на працягу 50 гадоў вяліся навук. даследаванні (закрыта ў 1883).

В. у. зноў пачаў працаваць у 1919 пасля аднаўлення незалежнай польскай дзяржавы і далучэння да яе Віленшчыны. Ун-ту было прысвоена імя С. Баторыя. Ён меў 5 ф-таў: тэалагічны, права і грамадскіх навук, медыцынскі, гуманітарны, матэматычна-прыродазнаўчы, мастацтва. Працавалі прафесары Ю. Дэмбоўскі, Л. *Калянкоўскі*, В. Камарніцкі, Г. *Лаўмянскі*, Ю. Отрэмбскі, С. Пігонь, В. *Урублеўскі*, Т. Чэжоўскі і інш. З 1922 ун-т выдаваў штомесячны час. «Alma Mater Vilnensis». У пачатку 2-й сусв. вайны сав. ўрад перадаў тэр. Віленшчыны і г. Вільню Літве. 15.12.1939 літоўскія ўлады закрылі В. у., а ў яго будынак перавялі некаторыя ф-ты Каўнаскага ун-та. 19.3.1943 і гэтыя ф-ты зачынены нямецкімі акупац. уладамі. З 1945 у будынку В. у. аднавіў дзейнасць пераведзены з Каўнаса ун-т (цяпер Вільнюскі ун-т). Выкладчыкі былога В. у. імя С. Баторыя ў чэрв. 1945 перавезены ў г. Торунь, дзе яны склалі аснову навук. калектыву створанага там ун-та імя М. Каперніка. У 1992/93 навуч. г. на 14 ф-тах В. у. займалася больш за 20 тыс. чал.

*Літ.:* Baliński M. Dawna Akademia Wileńska... Petersburg, 1862; Bieliński J. Uniwersytet Wileński (1579—1831). T. 1—3. Kraków, 1899—1900; Janowski L. Historjografja Uniwersytetu Wileńskiego. Cz. 1. Wilno, 1921; Яго ж. Słownik biobibliograficzny dawnego Uniwersytetu Wileńskiego. Wilno, 1939; Kosman M. Uniwersytet Wileński, 1579—1979. Wrocław etc., 1981; История Вильнюсского университета (1579—1979). Вильнюс, 1979. *В Ф Шалькевіч*

**ВІЛЕНСКІ ЦЭНТРА́ЛЬНЫ АРХІ́Ў СТАРАЖЫ́ТНЫХ А́КТАЎ**, Віленскі цэнтральны архіў старажытных актавых кніг губерняў Віленскай, Гродзенскай і Ковенскай, Цэнтральны архіў старажытных актавых кніг губерняў Віленскай, Гродзенскай, Мінскай, Ковенскай, Люблінскай, Віцебскай і Магілёўскай у г. Вільні. Існаваў у 1852—1915. Створаны для збірання і зберажэння дакументаў часоў ВКЛ на тэр. Віленскай, Гродзенскай, Мінскай, Ковенскай губ. Складзены на аснове архіўных фондаў цэнтр. і мясц. адм.-судовых устаноў пасля падзелаў Рэчы Паспалітай (канец 18 ст.). Да цэнтралізацыі архіваў асн. дакумент. матэрыялы захоўваліся ў архіве Трыбунала літоўскага *(Трыбунала ВКЛ)*, які фактычна ў той час быў гал. віленскім архівам. У 1795 у ім была 2071 кніга, многія з іх знаходзіліся ў катастрафічным стане. На апошнім сейме ў канцы 18 ст. шляхта ВКЛ прыняла ўхвалу аб стварэнні пасады спец. архіварыуса — рэгента, які павінен быў абірацца з мясц. шляхты «добрай кандыцыі, уладальнікаў нерухомай маёмасці, якія ведаюць права і карыстаюцца агульнай пашанай». Першым рэгентам стаў аршанскі чашнік А. Мальчэўскі, які ўпарадкаваў і перапісаў трыбунальныя кнігі ў 89 тамоў. У архіў паступілі кнігі гродзенскай і навагародскай кадэнцыі, акты Вайсковай камісіі, Таргавіцкай канфедэрацыі і інш. У 1837—40 ён папоўніўся зборамі актаў Скарбовага трыбунала (гл. *Трыбунал скарбовы*), Скарбовай літоўскай камісіі (гл. *Скарбовая камісія Вялікага княства Літоўскага*), трокскімі архіўнымі матэрыяламі. У 1-й пал. 19 ст. старадаўнія дакументы і акты захоўваліся таксама ў архівах віленскага замкавага (каля 255 кніг) і гародзенскага (145 сшыткаў-«фасцыкулаў») судоў. У адпаведнасці з царскім указам ад 2.4.1852 на аснове названых архіўных збораў быў створаны Цэнтр. архіў стараж. актавых кніг зах. губерняў.

У сярэдзіне 19 ст. яго фонды налічвалі 17 439 адзінак, у т. л. трыбунальны архіў — 74 арыгінальныя прывілеі, 6662 кнігі, архівы павятовых судоў і магістратаў (ашмянскага, вілейскага, віленскага, дзісенскага, друйскага, лідскага, радашковіцкага, свянцянскага, трокскага) — 2190 кніг; архівы Гродзенскай (4922 кнігі, 2 скрыні), Мінскай (1906 кніг), Ковенскай (1550 кніг) губерняў. Пазней паступілі кнігі мсціслаўскага гродскага суда 1733 (падарунак археографа М. Круповіча), пінскіх прывілеяў за 1554 (уласнасць калежскага асэсара В. Турскага), папіярыуш гродзенскіх прывілеяў за 1696—1717, інвентар бабруйскага староства 1639, складзены гаспадарскім рэвізорам А. Кірдзеем, 199 інвентароў і актаў са збораў гродзенскай скарбовай «ізбы» і інш. У 1880 гродзенскі губернатар даслаў у Віленскі цэнтр. архіў 288 спраў Беластоцкай акругі (акты «прускіх» часоў 1794—1808). У 1887 у Віленскі цэнтр. архіў увайшоў Люблінскі архіў стараж. актаў (каля 5 тыс. кніг), у 1903—06 *Віцебскі цэнтральны архіў старажытных актаў*. У 1903 у архіве налічвалася, паводле розных рэвізій і архіўных справаздач, ад 22 да 30 тыс. актавых кніг і фасцыкулаў. Пасля 1-й сусв. вайны і эвакуацыі фондаў у Расію ў б. фондах Віленскага цэнтр. архіва ў 1923 заставалася каля 15 тыс. кніг і фасцыкулаў. Частка архіўных збораў была вернута ў Вільню паводле ўмоў Рыжскага дагавора. У міжваенныя часы пад уладаю Польшчы архіў называўся Віленскім дзяржаўным архівам, аб'ядноўваў матэрыялы Віленскага цэнтр. архіва, Агульнага архіва віленскіх установ, музея М. Мураўёва. З 1944 на гэтай аснове пачаў дзейнічаць Цэнтр. дзярж. архіў Літ. ССР, у 1957 перайменаваны ў Цэнтр. дзярж. гіст. архіў Літ. ССР (аб'яднаў фонды б. Віленскага цэнтр. архіва і Вільнюскага гарадскога дзярж. архіва). З дасягненнем дзярж. незалежнасці Літ. Рэспублікі атрымаў назву *Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы*.

*Літ.:* Горбачевский Н. И. Каталог древним актовым книгам губерний: Виленской, Гродненской, Минской и Ковенской, а также книгам некоторых судов губернии Могилевской и Смоленской, хранящимся ныне в Центральном архиве в Вильне. Вильна, 1872; Лялин В. Виленский центральный архив // Сборник археологического института. Спб., 1878. Кн. 1.

Голуб В К Пятидесятилетие Виленского центрального архива древних актовых книг Ист очерк Вильна, 1902, Миловидов А Виленский Центральный архив (1852—1902) // Журн Мин-ва нар просвещения 1902 № 4, Егелявичюс С Организация архивов и других хранилищ документов в г Вильнюсе во II половине XIX — начале XX в // Науч труды вузов Лит ССР История Вильнюс, 1990 [Вып] 31, Mienicki R Archiwum akt dawnych w Wilnie w okresie od 1795 do 1922 roku Rys historyczny Warszawa, 1923, Яго ж Archiwum Murawjewskie w Wilnie (r 1898—1901—1936) Warszawa, 1937, Chwalewik E Zbiory polskie, archiwa, biblioteki, gabinety, galerje, muzea T 2 Warszawa, Krakow, 1927, Grimsted P K Archives and Manuscript Repositories in the USSR Estonia, Latvia, Lithuania and Byelorussia Princeton, 1981, Lietuvos centrinio, valstybinių istorijos archyvų fondų Žinynas 1 Vilnius, 1990 *Г Я Галенчанка*

**ВІЛЕНСКІ ЦЭНТРАЛЬНЫ ПАЎСТАНЦКІ КАМІТЭТ**, Галоўны камітэт, Польскі часовы ўрад у Літве, орган *паўстання 1830—31* на Беларусі і ў Літве Арганізаваны ў канцы 1830— пач. 1831 пасля атрымання першых звестак аб паўстанні ў Польшчы з мэтай каардынацыі дзеяння паўстанцаў на Беларусі і ў Літве У склад камітэта ўвайшлі віленскі губернскі маршалак шляхты С Шумскі, гісторык М. Балінскі, паэт А. Гарэцкі, Л Замбжыцкі, Э Ромер, Ю Храбніцкі, сакратар рады Віленскага ун-та Л. Рагальскі, прафесар В Пяткевіч Перавагу ў камітэце мелі кансерватары, якія адлюстроўвалі інтарэсы заможнай шляхты Варшаўскі народны ўрад прызначыў кіраўніком паўстання на Беларусі і ў Літве ген. А Янкоўскага, які, аднак, быў затрыманы пад Пултускам і прыехаць на месца прызначэння не змог Інструкцыі з Варшавы камітэту прывез эмісар Я Граткоўскі. Пасяджэнні адбываліся ў Вільні на кватэры Пяткевіча (у доме пад назвай «Кардынальня», насупраць касцела св. Яна). Камітэт падтрымліваў сувязі з Варшавай і павятовымі ўрадамі (камітэтамі) на Беларусі і ў Літве, арганізаваў майстэрню па вырабе зброі, грашовую касу для патрэб паўстання Аднак В. ц п. к. не адыграў значнай ролі і па сутнасці не стаў кіруючым цэнтрам паўстання на Беларусі і ў Літве У яго дзейнасці не было выразнай лініі паводзін і праграмы. Сябры камітэта дзейнічалі нерашуча, ад выпадку да выпадку Яго кансерватыўная большасць адцягвала тэрмін паўстання на Беларусі і ў Літве, чакаючы дапамогі і загаду ад варшаўскага ўрада. Бяздзейнасць В. ц. п. к. паскорыла разгром паўстання 1830—31 царскімі войскамі.

*Літ* Пузыревский [А К] Польско-русская война 1831 г Спб, 1886, Смит Ф История польского восстания и войны 1830—1831 годов [Т 2] Спб, 1863, Powstanie Listopadowe, 1830—1831 dzieje wewnętrzne, militaria, Europa wobec powstania 2 wyd Warszawa, 1990 *В В Швед*

**«ВИЛЕНСКИЕ ГУБЕРНСКИЕ ВЕДОМОСТИ»**, афіцыйная газета. Выдавалася Віленскім губернскім праўленнем з 1838 да 28.9(11.10).1916 на рус. мове. Выходзіла ў Вільні, у 1915 (№ 61—63) у Дзісне, потым у Туле з рознай перыядычнасцю. Мела афіцыйны і неафіцыйны аддзелы. Неафіцыйны аддзел у 1846—63 выходзіў як самастойная газета пад той жа назвай, з 1864 друкаваўся на апошняй старонцы газеты. У афіцыйным аддзеле публікаваліся пастановы, распараджэнні, аб'явы, весці цэнтр і мясцовых улад. Неафіц аддзел асвятляў мясцовае жыццё, друкаваў нарысы па гісторыі («Нарыс пра Расію», 1847, есць звесткі пра Беларусь; «Рух беларусаў на поўдзень Расіі да Кіева», 1868, «Гісторыя, геаграфія, этнаграфія і статыстыка заходніх губерняў і Віленскай у асаблівасці» А. Кіркора, 1847, і інш ), даследаванні па этнаграфіі і фальклоры [«Этнаграфія Віленскай губерні» А. Кіркора, 1848; «Каляда (у Беларусі)», 1852; «Пра зборнік заходнярускіх прыказак і прымавак» Р І Кулжынскага, 1866], па геаграфіі («Нарыс Лідскага павета ў тапаграфічных адносінах», 1849), эканоміцы, статыстыцы, культуры, нар. асвеце і інш У розны час выходзілі дадаткі да газеты «Асобныя артыкулы», «Дадаткі».

**«ВИЛЕНСКИЙ ВЕСТНИК»** («Kurier Wileński»), палітычная і літаратурная газета, афіц. орган Віленскага генерал-губернатарства Выдавалася ў 1841—1915 у Вільні, у кастр 1915—16 у Гомелі У 1841—65 афіц матэрыялы друкаваліся на рус і польскай мовах, неафіцыйныя — пераважна на польскай, з 1865 толькі на рус мове «В. в.» — праціг газ. «Kurier Litewski» («Літоўскі веснік»). Рэдактары А Э *Адынец* (1841—59), А К *Кіркор* (1859—65), М. дэ Пуле, П. Р. *Бывалькевіч* і інш Друкавала матэрыялы пра бел этнаграфію [працы А М Булгакава, А Я. Васільевай, М. А. Дзмітрыева, М. В Доўнар-Запольскага, **Я Ф.** Карскага, П. П. Дземідовіча (псеўд Беларус) і інш ], гісторыю, л-ру, эканамічны стан і культ. жыццё бел гарадоў і мястэчак. У газеце супрацоўнічалі бел і польскія пісьменнікі У. Сыракомля, В. Каратынскі, А. Вярыга-Дарэўскі, гісторык М Маліноўскі і інш. Спачатку прытрымлівалася паланафільскага кірунку, з мая 1863 віленскім ген.-губернатарам ператворана ў рэакц. орган урадавай адміністрацыі.

*Літ* Мархель У І «Кур'ер Віленьскі» як крыніца для вывучэння гісторыі культуры Беларусі (1860—1862 гг) // Из истории книги, библиотечного дела и библиографии в Белоруссии Мн, 1972 Вып 2 *А В Мальдзіс*

**«ВИЛЕНСКИЙ ВРЕМЕННИК»**, зборнік навук. прац па гісторыі, этнаграфіі, мовазнаўстве, статыстыцы Беларусі і Літвы. Выдадзены ў 1904—15 у Вільні ў 6 кн. на рус. мове ўпраўленнем *Віленскага генерал-губернатарства* (кн. 1—5) і музеем М. М. Мураўева (кн. 6) з мэтай садзейнічання «ўсебаковаму вывучэнню Паўночна-Заходняга краю». Заснавальнік і рэдактар А. М. *Харузін*. У 1-й кн. (1904) змешчана даследаванне Я. Ф. Карскага «Беларусы Уводзіны да вывучэння мовы і народнай славеснасці (З картай рассялення бел. народа)» 2-я кн (1907) змяшчае этнагр. працы М. Я. Нікіфароўскага «Нячысцікі Збор простанародных у Віцебскай Беларусі паданняў пра нячыстую сілу», А. М. Харузіна «Славянскае жылле ў Паўночна-Заходнім краі», П С. «Звесткі пра беларускія сялянскія пабудовы, сабраныя летам 1903 г. ў весках Маладзечанскай воласці Вілейскага павета Віленскай губерні», фотаздымкі сядзіб, хат і інш У кн 3-й «Сялянскае землеўладанне ў Віленскай губерні» і 4-й «Рускія пасяленні Ковенскай губерні» (абедзве 1909) прыведзены статыстычныя звесткі пра землеўладанні ў паветах, валасцях і сял грамадах Віленскай і Ковенскай губ Кн. 5-я змяшчае «Акты і дакументы архіва Віленскага, Ковенскага і Гродзенскага генерал-губернатарскага ўпраўлення, што адносяцца да гісторыі 1812—1813 гг.» (ч 1—2, 1912—13), перапіску М. І. Кутузава з літоўскім ваен. губернатарам А М Рымскім-Корсакавым, пісьмы А. А. Аракчэева, указы сената, рапарты, спісы ваеннапалонных і інш. дакументы перыяду Айч. вайны 1812, а таксама нарыс Ю. В. Тацішчава «Вільня і літоўскія губерні ў 1812—1813 гг.» У кн. 6-й «Архіўныя матэрыялы Мураўеўскага музея, што адносяцца да польскага паўстання 1863—1864 гг., у межах Паўночна-Заходняга краю» (ч 1—2, 1913—15) увайшлі 669 дакументаў на рус, польскай, літ., французскай і ням. мовах (маніфесты, цыркуляры, лісты паўстанцкага кіраўніцтва, спісы камандзіраў атрадаў, рапарты, загады, спісы вайск часцей, што ўдзельнічалі ў задушэнні паўстання, журналы іх баявых дзеянняў у Мінскай губ і інш.) Выданне спынена ў сувязі з 1-й сусв вайной *А М Філатава*

**ВІЛЕНСКІЯ ВЫСТУПЛЕННІ БЕСПРАЦОЎНЫХ 1930—34** у Заходняй Беларусі. Адбываліся ў перыяд эканам. крызісу 1929—33, які абвастрыў сац і паліт. напружанасць, выклікаў рост беспрацоўя У 1930 у Вільні налічвалася 4 тыс. беспрацоўных, у 1931—5,4 тыс., у 1932 — 6 тысяч. У 1931 толькі каля 500 беспрацоўных атрымлівалі мізэрную дзярж дапамогу, астатнія былі пакінуты на волю лесу. Выступленні праходзілі пад кіраўніцтвам Цэнтр. к-та беспрацоўных Вільні, які ўзначальваў чл гаркома КПЗБ Я Пшэвальскі. Віленскі акругком КПЗБ прымацоўваў да пунктаў найб. канцэнтрацыі беспрацоўных парт. ячэйкі і вопытных прапагандыстаў. Па ініцыятыве камуністаў у Вільні ствараліся к-ты беспрацоўных, дружыны самаабароны, арганізоўваліся мітынгі і дэманстрацыі. 24.1.1930 у горадзе адбылася дэманстрацыя 4 тыс. беспрацоўных, у якой удзельнічалі дэпутаты клуба «Змаганне» І. С. Дварча-

нін і І. М. Грэцкі. Дэманстранты пад лозунгам «Работы і хлеба!» накіраваліся да магістрата, аднак былі спынены паліцыяй; у выніку сутычкі некалькі чалавек былі паранены. Выступленні беспрацоўных пад лозунгамі «Патрабуем хлеба і работы!», «Патрабуем цёплага адзення і дроў!», «Далоў падрыхтоўку да вайны супраць Савецкага Саюза!» прайшлі 6 сак., 18, 19 і 21 снеж. 1930. Пад уплывам камуністаў дэманстрацыі беспрацоўных ператвараліся ў выступленні супраць рэжыму санацыі. 2.6.1931 некалькі соцен беспрацоўных сабраліся каля будынка гар. ваяводства, патрабуючы работы і матэрыяльнай дапамогі. Магістрат прапанаваў дзесяткам беспрацоўных работу на будаўніцтве шашы за 3 злотыя ў дзень. Аднак яны адмовіліся працаваць за такую нізкую плату. Тады іх прозвішчы былі выкраслены са спісаў беспрацоўных. У адказ на самавольства ўлад 600 беспрацоўных 10 чэрв. арганізавалі дэманстрацыю пратэсту, у час якойляглі на маставую і спынілі рух на вуліцы. Паліцыя разагнала дэманстрантаў. Неўзабаве яны сабраліся на мітынг каля палаца, дзе спыніўся Ю. Пілсудскі, які прыехаў у Вільню. Паліцыя зноў разагнала мітынгоўшчыкаў, 10 чал. арыштавала. Дэманстрацыі беспрацоўных прайшлі таксама 6, 7 і 9 ліпеня. 15 снеж. сотні беспрацоўных жанчын накіраваліся да ваяводы з патрабаваннем матэрыяльнай дапамогі і работы, аднак былі разагнаны паліцыяй. Па закліку Цэнтр. к-та беспрацоўных 13, 20, 27 лют. і 1 сак. 1933 зноў адбыліся дэманстрацыі. 7.1.1934 Цэнтр. к-т беспрацоўных выступіў з новымі патрабаваннямі: больш рабочых дзён у месяц, 3 злотыя зарплаты ў дзень жанчынам, выдача паліва і бульбы, рэгістрацыя ўсіх беспрацоўных і моладзі з мэтай працаўладкавання і інш. 9 студз. выбраная дэлегацыя ў суправаджэнні 500 беспрацоўных рушыла да біржы працы і прад'явіла яе кіраўніцтву свае патрабаванні. Не атрымаўшы адказу, беспрацоўныя пад лозунгам «Патрабуем хлеба, паліва, дапамогі, работы!» накіраваліся да ваяводы. Паліцыя дубінкамі разагнала іх. 12 студз. 900 беспрацоўных зноў сабраліся каля будынка біржы працы. Іх баявы і рашучы настрой прымусіў чыноўнікаў біржы правесці рэгістрацыю беспрацоўных і аказаць ім матэрыяльную дапамогу. Выступленні беспрацоўных працягваліся і ў наступныя гады. *І. Ф. Дзяшко.*

**ВІЛЕНСКІЯ ЗАБАСТО́ЎКІ АБУТНІКАЎ 1927—28** у Заходняй Беларусі. Выкліканы цяжкім становішчам абутнікаў, якія за цяжкую працу ў антысанітарных умовах атрымлівалі зарплату, што не забяспечвала ім пражытачнага мінімуму. 28.2.1927 пад кіраўніцтвам забастовачнага к-та забаставалі 1,5 тыс. абутнікаў. Яны патрабавалі павышэння зарплаты на 25 %, вырашэння пытанняў прыёму і звальнення рабочых толькі са згоды прафсаюза, разгляду канфліктаў паміж рабочымі і прадпрымальнікамі ў прафсаюзе абутнікаў. Дзякуючы агітацыі ЦК і Віленскага акругкома КПЗБ бастуючых падтрымалі рабочыя інш. прадпрыемстваў горада. Забастоўка працягвалася 1 месяц і скончылася перамогай абутнікаў. Далейшы рост дарагоўлі, інфляцыя, імкненне гаспадароў прадпрыемстваў выдаваць зарплату бонамі адмоўна ўплывалі на жыццёвы ўзровень рабочых. Яны звярнуліся за дапамогай у прафсаюзы гарбарнай прам-сці, адзін з якіх падпарадкоўваўся ППС, другі — БХД. Іх бяздзейнасць выклікала абурэнне рабочых. Па ініцыятыве Віленскага гаркома КПЗБ камуністы А. Дзідзюль, Ф. Грахоўскі, Я. Бонк і чл. ПСС-лявіцы В. Алейнічак стварылі рэв. прафсаюз, сакратаром якога стаў шавец П. Жаглінскі. Новы прафсаюз патрабаваў прызнання сваіх паўнамоцтваў, павышэння зарплаты рабочым на 50 %, устанаўлення 8-гадзіннага працоўнага дня. Але яго патрабаванні былі адхілены. У адказ абутнікі выбралі забастовачны к-т і ў сярэдзіне лют. 1928 аб'явілі забастоўку, у якой удзельнічала больш за 2 тыс. чалавек. Гарадская прафс. канферэнцыя прыняла рашэнне ўзмацніць матэрыяльную дапамогу бастуючым і пры неабходнасці правесці агульнагар. стачку. Забастовачны к-т разам з прафсаюзам выпусціў лістоўку з заклікам да насельніцтва горада падтрымаць абутнікаў актыўнымі дзеяннямі. Адбыўся мітынг салідарнасці з бастуючымі, у якім удзельнічала 2 тыс. чалавек. Паколькі забастоўка абутнікаў супала з выбарамі ў польскі сейм, выступленні прамоўцаў на мітынгу насілі вострыя паліт. характар. У горадзе распаўсюджваліся лістоўкі ЦК КПЗБ, праводзіліся сходы, збор сродкаў у фонд дапамогі бастуючым, рабочыя пікеты ахоўвалі абутковыя крамы. Забастоўка працягвалася 2 месяцы і скончылася перамогай абутнікаў.

*Літ.:* Вильнюсское подполье: Воспоминания участников рев. движения в Вильнюсском крае [1920—1939 гг.]. Вильнюс, 1966. *І. Ф. Дзяшко.*

**ВІЛЕ́НСКІЯ ЗАБАСТО́ЎКІ РАБО́ЧЫХ ЗАВО́ДА «ЭЛЕКТРЫ́Т» 1934—35** у Заходняй Беларусі. Найбуйнейшае прадпрыемства Вільні з-д «Электрыт» выпускаў радыёапаратуру. На ім працавала 350—400 пастаянных рабочых і некалькі соцень надомнікаў. З мэтай павелічэння асабістых прыбыткаў заводская адміністрацыя старалася наймаць на работу моладзь і жанчын з прыгарада за 2 злотыя ў дзень, не дазваляла стварэнне прафсаюза, распальвала нац. варожасць. Нягледзячы на забарону, па ініцыятыве камуністаў на з-дзе быў створаны прафсаюз, які патрабаваў аднавіць на рабоце звольненых рабочых. Паліцыя арыштавала ўсіх членаў праўлення прафс. арг-цыі. У адказ рабочыя 23.11. 1934 занялі з-д, патрабуючы вызвалення арыштаваных, павышэння зарплаты на 20—50 %, прызнання прафсаюза і выканання закону аб ахове працы. Пасля вызвалення арыштаваных яны пакінулі прадпрыемства і пачалі забастоўку. Па ініцыятыве Віленскіх акр. к-таў КПЗБ і КСМЗБ у дапамогу бастуючым рабочыя прафсаюза пекараў сабралі 150 кг хлеба, левыя прафсаюзы горада — 700 злотых, чыгуначнікі — 170 злотых. Студэнты Віленскага ун-та арганізавалі к-т дапамогі рабочым «Электрыта». Акругком КПЗБ заклікаў грамадскасць горада да забастоўкі салідарнасці, у якой прынялі ўдзел каля 1 тыс. чалавек. Забастоўка рабочых з-да працягвалася 2 тыдні і скончылася задавальненнем амаль усіх іх патрабаванняў. У лют. 1935 у адказ на звальненне 2 членаў праўлення прафсаюза рабочыя зноў забаставалі, патрабуючы аднавіць звольненых, павысіць зарплату, аплаціць за звышурочныя работы і інш. Па ініцыятыве камуністаў у фонд дапамогі бастуючым за 5 дзён было сабрана 750 злотых. У горадзе праводзіліся сходы, масоўкі, пасяджэнні праўленняў прафсаюзаў, нарады, на якіх прымаліся рэзалюцыі салідарнасці, абмяркоўваліся пытанні дапамогі бастуючым. Забастоўка скончылася перамогай рабочых.

*Літ.:* Вильнюсское подполье.: Воспоминания участников рев. движения в Вильнюсском крае [1920—1939 гг.]. Вильнюс, 1966. *І. Ф. Дзяшко.*

**«ВІЛЕНСКІЯ ЯКАБІ́НЦЫ»**, група арганізатараў і ўдзельнікаў шляхецка-бурж. блока на Беларусі і ў Літве ў час *паўстання 1794* на Беларусі і ў Літве, якая выступала за рэв. сацыяльна-палітычныя пераўтварэнні. Назву «якабінцы» ў дачыненні да рэвалюцыйна настроеных удзельнікаў паўстання ў Польшчы і ВКЛ (Варшава, Кракаў, Вільня) ужывалі іх паліт. праціўнікі (рус. імператрыца Кацярына II, кіраўнікі Таргавіцкай канфедэрацыі) у прапагандысцкіх мэтах, каб дыскрэдытаваць паўстанцаў, абвінавáціўшы іх у схільнасці да тэрору. Да «В. я.» належалі пераважна вайскоўцы — гал. чынам афіцэры шляхецкага паходжання, часткова выхадцы з інш. саслоўяў, сярод іх: Я. *Ясінскі* (кіраўнік), П. Грасмані, А. Гушкоўскі, Ю. Гарноўскі, М. Шульц, К. Эльснер, М. Карповіч і інш. Блізкімі да поглядаў «В. я.» былі віцэ-прафесар Віленскай гал. школы М. Тамашэўскі, ксёндз К. Богуш, праф. Віленскай гал. школы і Корпуса інжынераў В. Гугевіч. Адным з самых радыкальных дзеячаў «В. я.» лічыцца І. Хадзкевіч (Хацкевіч), на якога, аднак, падае падазрэнне ў супрацоўніцтве з расійскай тайнай паліцыяй і здрадніцкім выкрыцці напярэдадні паўстання найб. актыўных яго арганізатараў. «В. я.» адкрыта і недвухсэнсоўна падтрымлівалі высакародныя мэты Вял. французскай рэвалюцыі 1789—94, выказвалі надзею на дапамогу з боку рэв. Францыі, якая «жадае паўстання нашага». «В. я.» толькі часткова падтрымлівалі грамадска-паліт. імкненні якабінцаў Францыі: выступалі за скасаванне паншчыны і паступовую ліквідацыю прыгонніцтва, адмену саслоўных абмежаванняў для мяшчан, выказваліся за рэсп. лад у дзяржаве

за братэрства народаў, заклікалі да ўсеагульнай барацьбы з тыраніяй. У канкрэтна-гіст. умовах Рэчы Паспалітай гэтыя лозунгі набывалі выразна рэв. характар. Па ініцыятыве «В. я.» у ноч на 23.4.1794 пачалося паўстанне ў Вільні, яны ўвайшлі ў часовы рэв. ўрад Літвы і Зах. Беларусі — *Найвышэйшую Літоўскую раду*. Аднак істотна ўплывалі на ход паўстання толькі на яго першым этапе (крас.— май 1794). Вузкасць сац. базы з-за слабасці т. зв. «трэцяга саслоўя» не дазволіла «В. я.» дастаткова развіць сваю рэв. ідэалогію, стварыць з'яднаную групу і працягваць кіраваць паўстаннем на Беларусі і ў Літве. Гістарычная заслуга «В. я.» заключаецца ў тым, што яны паклалі пачатак радыкальна-дэмакр. плыні ў вызваленчым руху на Беларусі, заклікалі да братэрства народаў у барацьбе за незалежнасць і сац. пераўтварэнні.

*Літ.:* F r a n č i ć M. Insurekcja Kościuszkowska. Kraków, 1988; L e ś n o d o r s k i B. Polscy jakobini. Warszawa, 1960; M o ś c i c k i H. Generał Jasiński i powstanie Kościuszkowskie. Warszawa etc., 1917; K a r p i ń s k i F. Historia mego wieku i ludzi, z którymi żyłem. Warszawa, 1987. *У. П. Емяльянчык.*

**ВІЛЬБУШЭ́ВІЧ** Маня [Марыя Уладзіміраўна (Вульфаўна); 1879, Гродна — ?], удзельніца яўрэйскага рабочага і сіяністскага руху на Беларусі. З сям'і купца, які валодаў маёнткам Ласосна (у наваколлі Гродна). З-за дрэннага здароўя гімназію не наведвала, атрымала хатнюю адукацыю. З канца 1890-х гадоў член мінскага гуртка *Бунда* на чале з Я. Гурвіч. 7.3.1900 арыштавана ў сувязі з правалам друкарні Мінскага к-та Бунда і разам з інш. арыштаванымі бундаўцамі дастаўлена ў Маскву. У час допытаў начальнікам Маскоўскага ахоўнага аддзялення С. В. Зубатавым трапіла пад уплыў яго тэорыі аб магчымасці легальнага рабочага руху, што падтрымліваецца ўрадам (гл. *Зубатаўшчына*). У жн. 1900 вызвалена і вярнулася ў Гродна, дзе занялася прапагандай зубатаўскіх ідэй, арганізавала некалькі стачак рабочых. Тады ж зацікавілася тэорыяй *сіянізму*. З вясны 1901 разам з Ю. Воліным, А. Чамярынскім і інш. разгарнула агітацыю ў Мінску. Дзякуючы арганізатарскім здольнасцям і неўтаймаванай энергіі ўплыў яе групы зубатаўцаў хутка павялічваўся: у жн. 1901 пад уплывам групы знаходзілася 6 цэхаў мінскіх рабочых. Погляды і дзейнасць зубатаўцаў выклікалі асуджэнне ў асяроддзі бундаўскай арг-цыі, што вымусіла В. і яе прыхільнікаў выйсці з Бунда. У чэрв. 1901 яны заснавалі *Яўрэйскую незалежную рабочую партыю* (ЯНРП), апублікавалі яе маніфест і праграму. Пад уздзеяннем агітацыі ЯНРП стачкі ў Мінску адбываліся амаль бесперапынна. За кароткі час рабочыя, прыхільнікі ЯНРП, дамагліся значнага паляпшэння матэрыяльнага становішча. Пры гэтым В. пастаянна трымала ў курсе спраў Дэпартамент паліцыі і Зубатава, паведамляла пра ўсе падрабязнасці руху, назвала некаторых дзеячаў Бунда, якія потым былі арыштаваны. Дабілася дазволу на правядзенне ў Мінску ў ліст. 1901 усерас. з'езда прадстаўнікоў ЯНРП і гурткоў рабочых-сіяністаў («Паалей Цыён»). У маі 1902 з дзейнасцю ЯНРП азнаёміла ў Пецярбургу міністра ўнутр. спраў Расіі В. К. Плеве, які даручыў ёй пашырыць дзейнасць партыі на Вільню. З вер. 1902 з ведама Дэпартамента паліцыі займалася ўтварэннем зубатаўскіх рабочых саюзаў у Адэсе. Пасля загаду Плеве пра забарону яўрэйскага рабочага руху, кішынёўскага пагрому і ліквідацыі ЯНРП (1903) расчаравалася ў зубатаўскай тэорыі «сацыяльнай манархіі» і цалкам захапілася сіянізмам, летам 1903 уступіла ў арг-цыю «Паалей Цыён». З 1904 у Швейцарыі, потым — у ЗША, дзе вяла барацьбу з бундаўцамі, удзельнічала ў сіянісцкім руху. Затым пераехала ў Палесціну, працавала ў сіяніцкіх сацыяліст. калоніях.

*Літ.:* З а с л а в с к и й Д. О. Зубатов и Маня Вильбушевич. М., 1923; Б у х б и н д е р Н. А. Независимая еврейская рабочая партия // Красная летопись. 1922. № 2/3; Б и ч М. О. Рабочее движение в Белоруссии в 1861—1904 гг. Мн., 1983. *М. А. Сакалова.*

**ВІЛЬГЕ́ЛЬМ II** (27.1.1859, г. Патсдам — 4.6.1941), імператар Германіі і кароль Прусіі [1888—1918], з дынастыі Гагенцолернаў. Скончыў Бонскі ун-т (1879). Брыгадны генерал-маёр (1888). Праводзіў палітыку ўмацавання кайзераўскага рэжыму на аснове класавага кампрамісу паміж буйнымі аграрыямі і буржуазіяй. У рабочым пытанні балансаваў паміж палітыкай рэпрэсій і сацыяльнай дэмагогіяй. Праводзіў агрэсіўную знешнюю палітыку, накіраваную на стварэнне германскай каланіяльнай імперыі, пашыраў германскую экспансію на Балканах, Бліжнім Усходзе, Усх. Азіі, Афрыцы, што прывяло да абвастрэння саперніцтва Германіі з Англіяй, Расіяй, Францыяй і садзейнічала набліжэнню 1-й сусв. вайны. В. II нясе асабістую адказнасць за яе развязванне. Займаў пасаду вярхоўнага галоўнакамандуючага, падтрымліваў германскую інтэрвенцыю на Беларусі 1918. Пасля Лістападаўскай рэвалюцыі 1918 у Германіі ўцёк у Нідэрланды і 28.11.1918 адрокся ад трона. Паводле рашэння Парыжскай мірнай канферэнцыі 1919 падлягаў суду міжнароднага трыбунала, але не быў прыцягнуты да адказнасці. Падтрымаў устанаўленне ў Германіі фашысцкай дыктатуры. Аўтар мемуараў.

*Тв.:* Мемуары: События и люди, 1878—1918.;М.; Пг., 1923; Переписка Вильгельма II с Николаем II, 1894—1914. М.; Пг., 1923.

*Літ.:* Drei deutsche Kaiser. Wilhelm I — Friedrich III — Wilhelm II. Ihr Leben und ihre Zeit, 1858—1918. Würzburg, 1987. *А. М. Бабкоў.*

**ВІЛЬКАНЕ́Ц** Мар'ян Фёдаравіч (каля 1799—?), дзекабрыст. З дваран Віленскай губерні. У 1814—19 выхоўваўся у Дваранскім палку пры 2-м кадэцкім корпусе, адкуль выпушчаны прапаршчыкам у Нясвіжскі карабінерны полк. З 1824 паручнік. У 1825 прыняты П. І. *Гофманам* у тайнае т-ва *«Ваенныя сябры»*. Удзельнічаў у падрыхтоўцы *Літоўскага піянернага батальёна выступлення 1825:* прысутнічаў на нарадах кіраўнікоў т-ва ў маёнтку Завыкі (22.12. 1825) і в. Філіпы (23.12.1825) на Беласточчыне, актыўна выступаў за непрыняцце прысягі Мікалаю І. 22.3.1826 арыштаваны, знаходзіўся пад следствам ваенна-судовай камісіі ў Беластоку. На допытах трымаўся мужна і дзёрзка, спрабаваў уцячы з турэмнага памяшкання. Прыгавораны да пакарання смерцю, па царскай канфірмацыі (1827) пазбаўлены чыноў, дваранства і разжалаваны ў радавыя. 6 месяцаў быў зняволены ў *Бабруйскай крэпасці*, затым служыў у Грузіі, Каўказскім асобным корпусе, у 1830 — у 10-м лінейным батальёне. Далейшы лёс невядомы.

*Літ.:* Государственные преступления в России в XIX веке. Т. 1. (1825—1876). Спб., 1906; Б у к ч и н С. К мечам рванулись наши руки: Док. повести. 2 изд. Мн., 1985. *В. В. Швед.*

**ВІЛЬКІ́ЦКІ** Андрэй Іпалітавіч (1858—26.2.1913), рускі гідрограф-геадэзіст, ген.-лейт. флоту. Нарадзіўся на Міншчыне ў дваранскай сям'і. У 1887 узначаліў экспедыцыю на Новую Зямлю, дзе вёў гравітацыйныя назіранні. З 1894 да 1901 пад яго кіраўніцтвам праводзіліся

гідраграфічныя работы ад граніц з Нарвегіяй да Енісея, у Енісейскім заліве і Обскай губе. Рус. геагр. т-ва прысудзіла яму 2 залатыя медалі. Аўтар прац па гідраграфіі і геадэзіі. Яго імем названы праліў паміж морамі Карскім і Лапцевых.

*Літ.:* Мордовин К. П. Памяти А. И. Вилькицкого, 26 февр. 1913 г.: (Воспоминания и впечатления). Спб., 1913.

**ВІЛЬНЮСКАЯ АПЕРАЦЫЯ 1944**, наступальная аперацыя войск 3-га Бел. фронту (ген. арміі І. Д. *Чарняхоўскі)* 5—20.7.1944; састаўная частка *Беларускай аперацыі 1944* у Вял. Айч. вайну.

У В. а. ўдзельнічалі арміі: 11-я гв. (ген.-палк. К. М. *Галіцкі*), 5-я (ген.-лейт., з 15.7.1944 ген.-палк. М. І. *Крылоў*), 31-я (ген.-лейт., з 15.7.1944 ген.-палк. В. В. *Глаголеў*), 39-я (ген.-лейт. І. І. *Люднікаў*), 33-я (ген.-лейт. С. І. Марозаў), 5-я гв. танкавая (маршал бранятанкавых войск П. А. *Ротмістраў*), 1-я паветр. (ген.-палк. авіяцыі Ц. Ц. Хрукін); удзельнічалі таксама 3-і гв. механізаваны корпус (ген.-лейт. танкавых войск В. Ц. *Абухаў*), 3-і гв. кавалерыйскі корпус (ген.-лейт. М. *Аслікоўскі*). Войскі 3-га Бел. фронту, якія ўдзельнічалі ў *Мінскай аперацыі 1944*, у адпаведнасці з дырэктывай Стаўкі Вярхоўнага Галоўнакамандавання ад 4.7.1944 атрымалі задачу без аператыўнай паўзы гал. сіламі наступаць у агульным напрамку на Вільнюс, Каўнас і не пазней як 10—12 ліп. вызваліць Вільнюс і Ліду, у далейшым фарсіраваць р. Нёман і захапіць плацдармы на яе беразе.

Наступленне сав. войск развівалася імкліва. Праціўнік не меў суцэльнага фронту абароны і аказваў процідзеянне рэшткамі разбітых часцей і асобнымі злучэннямі, перакінутымі з інш. участкаў. Ням.-фаш. камандаванне спадзявалася затрымаць сав. войскі на загадзя падрыхтаваным рубяжы Даўгаўпілс — Вільнюс — Ліда, дзе сканцэнтроўвала адступаючыя часці 3-й танкавай і 4-й арміі групы армій *«Цэнтр»*. Сав. войскі наступалі ў напрамках: на Вільнюс (часці 5-й гв. танкавай і 5-й армій, 3-і гв. механізаваны корпус), праз Ашмяны на Алітус (11-я гв. армія і 2-і гв. танкавы корпус), на Ліду (31-я армія і 3-і гв. кавалерыйскі корпус), на Каўнас (39-я армія). У ходзе наступлення часці 3-га гв. танкавага корпуса 5-й гв. танкавай арміі 5 ліп. вызвалілі Валожын; часці 11-й гв. арміі, 5-й гв. танкавай арміі і конна-механізаванай групы, пераадольваючы ўпартае супраціўленне праціўніка, 5 ліп. вызвалілі Маладзечна; часці 5-й гв. танкавай арміі 7 ліп. вызвалілі Гальшаны і Ашмяны; часці 31-й арміі 6 ліп.— Івянец; 3-га гв. кавалерыйскага корпуса 7 ліп.— Юрацішкі, 8 ліп.— Іўе, 9 ліп.— Ліду, 13 ліп. завязалі баі за Гродна. Асабліва моцную групоўку праціўнік стварыў у раёне Вільнюса (гарнізон 12—15 тыс. чал.), куды з інш. участкаў фронту дадаткова перакідваліся 6 свежых злучэнняў. Каб апярэдзіць праціўніка, камандаванне 3-га Бел. фронту 4 ліп. павярнула 5-ю гв. танкавую армію на Вільнюс. 7—9 ліп. войскі 5-й гв. танкавай арміі, 3-га гв. механізаванага корпуса, 5-й арміі акружылі варожы гарнізон яшчэ да падыходу рэзерваў. Праціўніку, які меў сілы да 150 танкаў і штурмавых гармат, полк мотапяхоты, не ўдалося дэблакіраваць акружаную групоўку. 13 ліп. сав. войскі вызвалілі Вільнюс. У час баёў за Вільнюс войскі 11-й гв. і 31-й армій выйшлі да р. Нёман, 15 ліп. авалодалі плацдармамі на яе левым беразе, на фронце да 70 км фарсіравалі Нёман у раёне Алітуса і на Пд ад яго. 16 ліп. вызвалена правабярэжная частка Гродна (31-я армія і 3-і гв. кавалерыйскі корпус 3-га Бел. фронту, 50-я армія 2-га Бел. фронту), 24 ліп.— занёманская частка горада (гл. таксама *Беластоцкая аперацыя 1944*). Вялікую ролю пры вызваленні Вільнюса і фарсіраванні Нёмана адыграла 1-я паветр. армія, у складзе якой дзейнічаў французскі знішчальны авіяполк «Нармандыя» (гл. *«Нармандыя — Нёман»*). Да 20 ліп. сав. войскі 3-га Бел. фронту прасунуліся на глыбіню да 210 км. У ходзе аперацыі сав. войскі цесна ўзаемадзейнічалі з бел. і літ. партызанамі. У выніку В. а. створаны спрыяльныя ўмовы для выхаду войск 3-га Бел. фронту да граніц Усх. Прусіі. 20 часцям і злучэнням фронту прысвоена ганаровае найменне «Віленскіх», 13— «Маладзечанскіх», 4 — «Лідскіх».

*Літ.:* Борьба за Советскую Прибалтику в Великой Отечественной войне 1941—1945. Кн. 2. Рига, 1967; Освобождение Белоруссии, 1944. 2 изд. М., 1974. *В. С. Павалихіна*

Герб Вільні. 16 ст.

Вострая брама ў Вільні. Сучасны выгляд.

Верхні замак у Вільні. Фрагмент плана Ф. Хогенберга. 1545.

**ВІЛЬНЯ** (Вільна, з 1939 Вільнюс, літ. Vilnius), старажытная сталіца Вял. княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага ў пач. 14 — канцы 18 ст. З 1940 сталіца Літвы. Вузел чыгунак (5 напрамкаў) і шашэйных дарог. Аэрапорт. 592,5 тыс. жыхароў (1993). Размешчаны каля сутокаў рэк Вілія (Нярыс) і Вільня (Вільна, Віленка, Вілейка). Сваю назву горад ат-

рымаў ад р. Вільня, славянскае паходжанне якой бясспрэчна

В. займае тэрасы стараж далiны р Вiлія і абмежавана 2 марэннымі ўзвышшамі Паводле археал. даследаванняў, тэр сучаснага горада заселена яшчэ ў палеаліце (10-е тысячагоддзе да н. э ) і неаліце (4—3-е тысячагоддзе да н э ) На думку літ. даследчыка К. Бугі, славяне-крывічы з'явіліся тут у 6—7 ст. Яны жылі цераспалосна з мясц балцкім насельніцтвам. Каля падэшвы сучаснай Замкавай гары выяўлены сляды стараж. паселішча 5—9 ст., выцягнутага ўздоўж гразкай даліны р Вільня. У 11—12 ст. тут існавала паселішча гар тыпу, заснаванае крывічамі ў сутоках рэк, якое паводле слав традыцыі атрымала назву ад меншай р. Вільня. Не пазней як у 2-й пал. 11 ст горад стаў цэнтрам *Віленскага княства* — феад. ўдзела *Полацкаи зямлі* У 1070 тут княжыў полацкі кн. Расціслаў Рагвалодавіч, пасля 1129 — яго сыны Большасць тагачасных жыхароў В. складала ўсх -слав. насельніцтва. Жылі тут таксама тубыльцы-аўкштайты Першапачаткова горад месціўся на т зв. Крывой (Лысай) гары, што дала паселішчу назву Крывы горад і Крывы замак, зафіксаваную ў пісьмовых крыніцах 14 ст. Нямецкія хронікі называюць Крывы горад таксама «горадам Русінскім» («civitas Ruthenica»). Пад аховай Крывога замка на левым беразе р. Вільня і вакол Крывой гары, на якой пазней узнік Верхні замак, пачало разрастацца паселішча. Тут выяўлены культ. пласт таўшчыней каля 8 м, ніжні ярус якога датуецца 13 ст. Паводле пісьмовых крыніц, В. стала сталіцай ВКЛ у часы праўлення вял. кн. Гедзіміна [1316—41] Упершыню горад пад назваю Вільня згадваецца ў грамаце ад 25 1.1323 да ганзейскіх гарадоў Любека, Брэмена, Магдэбурга і Кельна, дзе гаворыцца, што В. існавала з даўніх часоў. З дакумента вынікае, што ўжо ў 1321 тут былі цэрквы ордэнаў прапаведнікаў-дамініканцаў (спалена прускімі крыжакамі) і мінарытаў-францысканцаў. Як сталічны горад з замкам і велікакняжацкім палацам В. ўпамінаецца ў мірным дагаворы ВКЛ з Лівонскім ордэнам і г. Рыгай ад 2.10.1323 У граматах, дасланых у гарады Зах. Еўропы, змешчаны запрашэнні розным рамеснікам і купцам прыязджаць у В. і ВКЛ на сталае жыццё. Яшчэ раней у В існавалі праваслаўныя цэрквы, адна з якіх — Мікалаеўская, пабудаваная ў часы праўлення Гедзіміна. Пры вял кн. ВКЛ Альгердзе [1345—77] з'явіліся цэрквы Прачысценская, Пятніцкая, Траецкая, на Верхнім замку (пазней пераабсталявана ў касцел св Марціна) і, верагодна, Святадухаўская. З канца 14 ст. пры праваслаўных і каталіцкіх манастырах ствараліся школы і бібліятэкі. Пры велікакняжацкай канцылярыі з 14 ст. дзейнічаў дзярж. архіў (гл. *Метрыка Вялікага княства Літоўскага*) У гэты час пачала фарміравацца новая планавая структура горада, абмежаванага рэкамі Вілія, Вільня і Качарга. На эканам развіцце В станоўча паўплывала наданне гораду ў 1387 магдэбургскага права. Гэта ўзмацніла і пашырыла гандлевыя сувязі В. з гарадамі Ганзы, Польшчы і ВКЛ. Моцна цярпела В. ад спусташальных набегаў крыжакоў у 1321, 1365, 1375 і інш. гады. У 1377 яны спалілі частку горада. 4.9 1390 пасля 6-дзеннай аблогі крыжакі ўзялі штурмам і спалілі Крывы замак, аднак, нягледзячы на працяглую асаду, Ніжнім замкам каля падножжа гары Гедзіміна не авалодалі. У 1391 напад паўтарыўся і прывеў да сутычкі з войскам ВКЛ на прадмесці В. Апошні раз крыжакі былі пад сценамі В. ў 1402. Падпісаная ў В. *Віленска-Радамская унія 1401* юры-

Панарама Вільні. Афорт Т Макоўскага 1600

дычна замацавала саюз ВКЛ і Польшчы ў барацьбе з ням. агрэсіяй. У 1399 і 1419 горад моцна пацярпеў ад пажараў. Паводле апісання франц. падарожніка Жыльбера дэ Ланоа за 1413, горад быў неўмацаваны, выцягнуты вузкай паласой уздоўж р. Вільня, забудаваны драўлянымі дамамі, сярод якіх зрэдку траплялiся мураваныя храмы. На высокай пясчанай гары месціўся замак, умацаваны «каменнем, зямлёй і мурам». У В. жыло шмат розных рамеснікаў і купцоў. Яна была рачным портам. У 1440-я гады 2 разы на год праводзіліся вялікія кірмашы. Мясц. купцы мелі права бяспошлінна гандляваць на ўсёй тэр. ВКЛ. Да 1432 горадам фактычна кіраваў велікакняжацкі цівун, хоць намінальна з 1387 існаваў магістрат. Пад 1392 нават згадваецца войт па прозвішчы Вышка. Але сапраўдную ўладу з правам суда войт атрымаў толькі ў 1432, калі яго прызначыў на гэту пасаду вял. князь і тут была ўтворана гар. рада. У яе ўваходзілі 24 райцы і 12 бурмістраў, якія падзяляліся на «лавіцу рускую» і «лавіцу рымскую» (рымска-каталіцкую). У 1533 службовыя абавязкі ў магістраце выконвалі бурмістры і райцы Грыгорый Мэка, Гаўрыла Аліфаровіч, Мікола Сяльковіч, Адашка Семяновіч, Юрый Нястука і Васіль Фядкевіч, бел. паходжанне якіх не выклікае сумнення. На лацінскай і старабел. мовах напісаны прывілей 1432 вял. кн. ВКЛ Жыгімонта Кейстутавіча. З 1413 В.— цэнтр *Віленскага ваяводства.* З 1416 у горадзе знаходзілася рэзідэнцыя праваслаўнага мітрапаліта ВКЛ. Паступова В. набыла статус важнага паліт. цэнтра Усх. Еўропы, куды прыязджалі пасольствы з розных краін. Паводле прывілея 1441 вял. кн. Казіміра IV Ягелончыка В. ў ліку інш. 14 гарадоў ВКЛ была вызвалена ад платы пошліны. У 1492 у горадзе заснаваны *Віленскі манетны двор* і першая аптэка З канца 15 ст. ў глыб ВКЛ пачалі рабіць рэйды крымскія татары і войскі маскоўскіх вял. князёў, што стварала небяспеку для сталіцы. У сувязі з гэтым магістрат і гар. абшчына прынялі рашэнне пабудаваць вакол В. комплекс абарончых умацаванняў. 23.4.1498 адбылася ўрачыстая закладка сцяны. Спачатку вакол горада быў выкапаны абарончы роў і насыпаны вал. На ім жыхары кожнага дома і вуліцы абавязаны былі збудаваць участак муравачай сцяны, вежу ці браму, а пры адсутнасці грошай на мур паставіць драўляны абарончы паркан. Спачатку «памуравалі» толькі 5 брам (Віленскую, Трокскую, Траецкую, Спаскую, Замкавую), якія днём і ноччу пільнавала спец. варта. На ўтрыманне яе была ўстаноўлена плата на 2 гады — 1 пенязь з кожнага воза, што ўязджаў у В. Па меры росту горада зроблены яшчэ 5 брам: Татарская, Рудніцкая, Субач, Бернардзінская і Мокрая Для ваеннабудаўнічых работ прыцягвалася феад.-залежнае насельніцтва з усяго ВКЛ. Тут працавалі муляры і вапнікі з Гародні, далакопы і цесляры з Любчы, Валожына, Ашмян і інш. месцаў (напамінам пра тую цяжкую працу застаўся ў народзе праклён: «Каб цябе закаталі ў Вільню горы капаць!»). Будаўніцтва гар. абарончых умацаванняў, даўжыня якіх склала 2,4 км, скончана ў 1522 Па іканаграфічных матэрыялах можна меркаваць, што сцены і вежы ўмацаванняў тынкаваліся, мелі байніцы, разлічаныя на стральбу з лукаў, арбалетаў, агнястрэльнай зброі, кіданне каменняў і інш.

Панарама Вільні. Невядомы мастак 17 ст.

Замкі ў Вільні. Невядомы мастак. 1805.

У 16 ст. адбываўся далейшы росквіт В., расшырэнне яе тэрыторыі. На месцы драўляных дамоў і храмаў мясц. і замежныя (нямецкія, італьянскія, галандскія і інш.) дойліды і будаўнікі пачалі ствараць раскошныя рэнесансавыя мураваныя палацы. Сярод іх вылучаліся палацавыя комплексы Радзівілаў, Хадкевічаў, Сапегаў, Астрожскіх, Кішкаў і інш магнатаў ВКЛ. На актывізацыю мураванага будаўніцтва паўплывалі таксама пажары ў 1419, 1513, 1520, 1530 і 1557, у выніку якіх выгаралі значныя часткі горада, моцна цярпеў комплекс будынкаў велікакняжацкага Ніжняга замка. Навокал пышных храмаў і палацаў ляжалі прадмесці пераважна драўлянага горада з хаатычнай забудовай курнымі хатамі У 2-й пал. 16 ст. магістрат патрабаваў ужо ставіць дамы «пад шнур». Паводле сведчанняў сучаснікаў, у 1517 В. па велічыні раўнялася Кракаву з усімі яго прадмесцямі. Але дамы ў В. не прымыкалі адзін да аднаго ўшчыльную, як гэта мела месца ў польскіх гарадах, а раздзяляліся агародамі, садамі і прысадамі. У канцы 15 — пач. 16 ст. ў В. пражывала каля 10 тыс. чал., у сярэдзіне 16 ст.— амаль 20 тыс. У 16 ст. ў горадзе налічвалася каля 100 двух- і трохпавярховых мураваных будынкаў, сфарміравалася радыяльная сетка вуліц. У 1536 цераз

р Вілія перакінуты першы мураваны мост, які пазней атрымаў назву Зялёны. У 1511 у В. было 7 касцёлаў і 14 цэркваў, у т. л. Міколы Перанесенская, Васкрасенская, Міколы Успенская, Кацярынінская, Спаская, Прачысценская, Міхайлаўская, Раждзественская, Іванаўская, Пятніцкая, Казмадзям'янская, Юр'еўская-на-Росах, Саборна-Петрапаўлаўская-на-Зарэччы, манастыр св. Тройцы. Колькасць цэркваў сведчыць, што асн. насельніцтвам горада былі праваслаўныя, г. зн. беларусы. Акрамя беларусаў і літоўцаў з часоў праўлення вял. кн. Альгерда тут пачалі асядаць яўрэі і немцы. Вял. кн. Вітаўт [1392—1430] пасяліў тут частку крымскіх татар. Пры вял. кн. ВКЛ Жыгімонце Кейстутавічу [1432—40] у горадзе з'явіліся перасяленцы-рамеснікі з Польшчы, Італіі. Побач з цэрквамі і касцёламі пачалі будаваць сінагогі і мячэці. Як і ва ўсім ВКЛ, у В. панавала атмасфера нац. і рэліг. талерантнасці. У 16 ст. В. ператварылася ў найбуйнейшы міжнародны еўрап. і бел.-літоўскі цэнтр гасп., рэліг. і культ.-асв. жыцця. Гіст. крыніцы паведамляюць пра існаванне тут ужо ў 1397 школы для дзяцей гараджан, якая дзейнічала пры кафедральным саборы (спачатку размяшчалася ў Ніжнім замку, у 16 ст. для яе быў пастаўлены спец. будынак). Пра высокі ўзровень ведаў вучняў школы сведчыць паступленне ў Кракаўскі ун-т каля 100 яе выпускнікоў. Акрамя дзяржаўнай бел. мовы, вучні школы вывучалі лацінскую, ням., яўр. і грэчаскую. Невял. школы дзейнічалі і пры манастырах горада. Маладыя людзі ездзілі вучыцца ў Кракаўскі, Пражскі, Лейпцыгскі, Балонскі і інш. ун-ты Еўропы. З 15 ст. ў В. пашыраюцца гуманіст. ідэі. У 1413 горад наведаў паплечнік Я. Гуса Еранім Пражскі. Ён быў прыняты пры двары вял. кн. Вітаўта, амаль год жыў у ВКЛ і распаўсюджваў гуманіст. ідэі гусітаў. У часы праўлення вял. кн. ВКЛ Аляксандра [1492—1506] пры вялікакняжацкім Ніжнім замку жылі астраном Войцех з Брудзева і публіцыст Эразм Вітэлій. З 1520-х гадоў у В. распаўсюджваюцца рэфармацкія ідэі гуманістамі А. Кульвецісам і С. Рапаліёнісам, якія ў 1539 адкрылі тут школу вышэйшага тыпу. З-за праследаванняў каталіцкім біскупам П. Гальшанскім Кульвецiс у 1542 мусіў эмігрыраваць у Кралявец (Кёнігсберг). У пач. 16 ст. ў В. абсталяваў друкарню Ф. Скарына. Ён выдаў тут «Малую падарожную кніжку» (1522) і «Апостал» (1525). З 1524 пачала дзейнічаць паперня, каля 1540 — арсенал і гарматная ліцейня, з сярэдзіны 16 ст.— водаправод у драўляных трубах. У 1547 Марцін Палецкі заснаваў шкляную гуту. Віленскі манетны двор у сярэдзіне 16 ст. чаканіў разнастайную сярэбраную і залатую манету; тут працавала больш за 30 майстроў-чаканшчыкаў. Пры вял. кн. ВКЛ і каралю Польшчы Жыгімонце II Аўгусце [1548—72] адкрыты (каля 1545) першая карцінная галерэя і б-ка (налічвала больш за 1 тыс. кніг, пазней перададзена Віленскай акадэміі). У 1569 паслядоўнік Скарыны бел. друкар П. Мсціславец заснаваў у В. друкарню з кірылічным шрыфтам. Дом, дзе яна размяшчалася (вул. Вялікая), у 1582 набылі браты Кузьма і Лукаш Мамонічы, якія сталі ўладальнікамі друкарні. Тут на царк.-слав., старабел., лац. і польскай мовах выдаваліся падручнікі, рэліг. л-ра, законы ВКЛ, у т. л. *«Статут Вялікага княства Літоўскага 1588»* (некалькі выданняў кірыліцай), «Трыбунал абаваталям Вялікага княства Літоўскага» (1586) і інш. помнікі бел. пісьменства. Пасля *Брэсцкай уніі 1596* сын Кузьмы Лявон Мамоніч друкаваў тут уніяцкія кнігі. Каля 1625 друкарня Мамонічаў перайшла да манахаў-базыльян. У 16 ст. тут заснаваны Віленскія брацкая і акадэмічная друкарні (гл. адпаведныя арт.). У 1579 езуіты адкрылі Віленскую акадэмію (гл. *Віленскі універсітэт*). У 15—16 ст. дзейнічала 5 праваслаўных брацтваў, найбуйнейшым з якіх было Траецкае (з 1584; пазней наз. Святадухаўскае).

Самакіраванне гараджан спрыяла развіццю тут рамёстваў. З 15 ст. ў В. ствараюцца рамесныя цэхі, першы з якіх, кушнерскі, узнік у 1458. У 1495 заснаваны цэхі краўцоў і залатых спраў майстроў. У сярэдзіне 16 ст. ў горадзе было

Брама замка і будынак Галоўнага трыбунала Вялікага княства Літоўскага ў Вільні. Літаграфія Ю. Азямблоўскага. 1835.

Панарама Вільні. Акварэль Ю. Пешкі. 1808.

Рэзідэнцыя вялікіх князёў у Вільні. Літаграфія К. Рачынскага. 1832.

20 рамесных цэхаў, існавалі 42 рамёствы У 16 ст пашырыўся гандаль віленскіх купцоў з гарадамі Ганзы, Прусіі, Польшчы (Гданьск, Познань, Кракаў, Варшава), Украіны, Рускай дзяржавы, з г Рыга, пабудаваны Рускі (1503), Маскоўскі і Нямецкі (абодва 1523) гасцінныя двары Моцны пажар у 1610 знішчыў у В 4700 дамоў, замкі і 10 храмаў Аднак пры падтрымцы караля Уладзіслава Вазы і канцлера Льва Сапегі да сярэдзіны 17 ст сталіца адрадзілася Цэнтр горада забудоўваўся ў асн мураванымі будынкамі, узніклі новыя вуліцы і плошчы У гэты час у В існавала больш за 120 рамёстваў У 1647 налічвалася 839 крам, 37 храмаў розных канфесій, дзейнічалі калегіі езуітаў і уніятаў, школы евангельскіх рэфарматаў і праваслаўныя, 10 друкарняў,

Кафедральны сабор у Вільні Літаграфія В Садоўнікава 1854

у т л *Віленская базыльянская друкарня* У перыяд *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* у ліп 1655 пасля жорсткага бою на подступах да горада і зацятай абароны з вулічнымі баямі сталіца ВКЛ была занята царскім войскам Горад гарэў 17 дзён У сувязі з заключэннем у кастр 1656 *Віленскага перамір'я 1656* вайна паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай спынена і яны аб'ядналіся ў антышведскі блок Аднак ён быў кароткачасовы і летам 1658 ваен дзеянні аднавіліся Акупацыя В царскім войскам працягвалася да снеж 1661 Войскі ВКЛ неаднаразова спрабавалі вызваліць горад Рускі гарнізон сядзеў аблажаны ў Верхнім замку амаль паўтара года, адбіўшы 5 прыступаў Кіраўнік гарнізона кн Данíла Мышэцкі ўрэшце быў здадзены каралеўскаму войску ўласнымі салдатамі якія адмовіліся ваяваць Апошнія і пакаралі смерцю Мышэцкага за тое, « что он был большой тиран, много людей не винно покарал, и на части рассекши, из пушек ими стрелял, иных на кол сажал беременных женщин на крюках за ребра вешал, и они, вися на крюках, рождали младенцев» З ваен ліхалеццяў В выйшла моцна разбураная і спаленая, страціўшы палавіну насельніцтва Толькі ў канцы 17 ст горад стаў ажываць Сапегі, Пацы Служкі (Слушкі), Радзівілы зноў пачалі адбудоўваць палацы, фундаваць храмы У В быў створаны саюз бел і літ шляхты супраць палітыкі абсалютызму караля Аўгуста II у Рэчы Паспалітай (гл *Віленская канфедэрацыя 1716*) У час *Паўночнай вайны 1700—21* многія жыхары В загінулі ад голаду і эпідэміі чумы

З цягам часу горад паступова адрадзіўся Пачалі выходзіць газ «Kurier Litewski» («Літоўскі веснік») і «Gazeta Wilenska» («Віленская газета», абедзве на польскай мове) У 1773 пасля ліквідацыі езуіцкага ордэна заснавана *Адукацыйная камісія*, якая рэарганізавала сістэму адукацыі ў межах ВКЛ В з'яўлялася адным з цэнтраў паўстання 1794 22—23 4 1794 паўстанцы на чале з Я Ясінскім адваявалі В ў рускіх і ўтрымлівалі яе да 11 жніўня (гл *Віленскае паўстанне 1794*)

Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) горад увайшоў у склад Расійскай імперыі і стаў цэнтрам Літоўскай, пазней Віленскай губерні, Віленскага генерал губернатарства, месцазнаходжаннем ген -губернатара У пач 19 ст В — трэці па велічыні (пасля Масквы і Пецярбурга) горад царскай Расіі У 1795 тут налічвалася 38 цэхаў Пазбаўленая статуса сталіцы В, аднак, да пач 20 ст заставалася культурным і ў пэўнай ступені паліт -адм цэнтрам Пры Віленскім ун-це ў 1797 была адкрыта школа прыгожых мастацтваў (у 1803 перайменавана ў ф-т жывапісу, скульптуры і гравюры), некаторыя выпускнікі якой працавалі выкладчыкамі бел гімназій у Маладзечне, Паставах, Магілеве, Халопенічах, Свіслачы, Мінску Прыкметны след у развіцці бел, літ і польскай культуры канца 18 — 1-й пал 19 ст пакінулі выхаванцы гэтай школы І Аляшкевіч, Г Бароўскі, К Бахматовіч, В Ваньковіч, Я Дамель, В Дмахоўскі, Ю Карчэўскі, М Кулеша Н Орда, К Русецкі, К Рыпінскі і інш Вясной 1796 узнікла нелегальнае паліт т-ва *Віленская асацыяцыя*, якое ставіла сабе за мэту барацьбу за аднаўленне Рэчы Паспалітай у межах 1772 У 1803 утво

Панарама Вільні з гары Бекеша Хромалітаграфія І Трутнева 1865

Руіны Верхняга замка ў Вільні. Мастак І Трутнеў Паводле малюнкаў П Росі і М Янушавіча 1865

рана *Віленская навучальная акруга.* Паводле сведчання прафесара з Вены І.-П. Франка, які прыехаў чытаць лекцыі ў Віленскім ун-це, у 1804 у **В.** налічвалася 35 тыс. жыхароў, з іх «католікаў каля 22 тыс., праваслаўных 600, пратэстантаў 500, рэфарматаў 100, яўрэяў 11 тыс., мусульман 60. Дваране, мяшчане былі большай часткай католікамі. Да праваслаўных належалі некаторыя чыноўнікі, купцы, сяляне». З 1808 у **В.** ўведзена самакіраванне, у аснову якога пакладзена *Даравальная грамата гарадам 1785.* Распарадчая ўлада ўскладалася на агульную гар. думу, выканаўчая — на шасцігласную гар. думу. Акрамя таго, горад яшчэ захоўваў некаторыя прывілеі магдэбургскага права.

Напярэдадні Айч. вайны 1812 у **В.** было каля 36 тыс. жыхароў, больш за 700 мураваных і столькі ж драўляных дамоў, 25 цэркваў і 23 манастыры, у т. л. праваслаўны Віленскі Святадухаўскі манастыр з храмам, уніяцкія манастыр і семінарыя, лютэранская і рэфармацкая цэрквы, астатнія — каталіцкія. У выніку *Віленскай аперацыі 1812* горад 16(28) чэрв. акупіраваны французскімі войскамі. Яшчэ да пачатку Айч. вайны 1812 з **В.** ў Пскоў былі вывезены архівы, казённыя грошы, планы, геагр. карты інш. дакументы. У дзень прыбыцця Напалеона ў **В.** кіраўнікі магістрата ўручылі яму ключы ад гар. брамы. Нягледзячы на прыязныя адносіны да французаў бел. і польскай шляхты, якая спадзявалася на дапамогу Напалеона аднавіць ВКЛ, а потым і Рэч Паспалітую, акупанты рабавалі горад і навакольныя вёскі. 1(13).7.1812 Напалеон падпісаў у **В.** дэкрэт аб стварэнні Часовага ўрада ВКЛ у складзе 7 членаў і сакратара. Гал. камендантам горада быў прызначаны французскі ген. Жаміні. Гар. кіраўніцтва складалася з мэра (ці прэзідэнта), 4 саветнікаў і муніцыпальнага савета з 12 членаў. Кіраўнікамі падпрэфектур (паветаў) Віленскай губ. былі прызначаны былыя маршалкі павятовага дваранства. Па загаду Напалеона ў жн. 1812 з прадстаўнікоў бел. і польскай моладзі ўтворана Віленская нац. гвардыя (1220 чал.), якая выконвала паліцэйскія функцыі. Гандлёвае жыццё ў **В.** значна аслабла. Вынікам рабавання франц. войск з'явіўся голад. Пачаліся захворванні дызентэрыяй, сыпным тыфам, цынгой. Восенню 1812 толькі ў ваен. шпіталях горада налічвалася каля 1 тыс. хворых. Многія аўдыторыі універсітэта былі прыстасаваны пад лазарэты. 28.11(10.12). 1812 горад заняты рус. войскамі. Пад **В.** французы страцілі 14 тыс. (паводле інш. звестак 15 тыс.) палоннымі, 140 гармат, правіянцкія склады, абозы, усю казну. Як сведчылі сучаснікі, пасля адыходу Напалеона з горада «на вуліцах, дварах, у дамах валяліся мерцвякі, дзе-нідзе наваленыя кучамі па некалькі тысяч, складзеныя ў выглядзе вялікіх кладоў дроў».

Пасля вайны ў **В.** абудзілася грамадскае жыццё, стварaліся патрыят. т-вы *шубраўцаў, філаматаў, філарэтаў, «прамяністых»* (некаторыя з іх мелі кантакты

Бланк пасведчання выпускніка Беларускіх вучыцельскіх курсаў у **Вільні.** 1919. БДАМЛіМ.

з арганізацыямі дзекабрыстаў). Актыўны ўдзел у іх арганізацыі і дзейнасці прымалі А. Міцкевіч, Т. Зан і інш. бел., польскія і літ. пісьменнікі. Т-вы выступалі супраць ідэалаг. наступу рэакцыі, ставілі задачы сац. і нац. вызвалення народаў, пашырэння культуры і асветы, вывучэння гісторыі роднага краю і інш. У час паўстання 1830—31 у горадзе дзейнічаў Віленскі цэнтральны паўстанцкі камітэт, арганізоўваліся атрады для барацьбы з царскімі войскамі. Пасля задушэння паўстання ў 1832 быў закрыты Віленскі універсітэт, пакінуты толькі мед. і тэалагічны ф-ты, рэарганізаваныя ў Віленскую медыка-хірургічную акадэмію і Духоўную акадэмію (у 1842 першая пераведзена ў Кіеў, другая — у Пецярбург). З **В.** звязаны пэўны перыяд жыцця і дзейнасці бел. і польскага паэта і фалькларыста **Я. Чачота.** У 1836—68 у **В.** жыў і працаваў вучоны і грамадскі дзеяч **А. Кіркор** — аўтар прац пра гісторыю і прыроду Беларусі, матэрыяльную і духоўную культуру бел. народа. Яго літ. гурток быў цэнтрам інтэлектуальнага жыцця, аб'ядноўваў бел., польскіх і літ. літаратараў і дзеячаў культуры.

У 1835 у склад **В.** ўваходзілі 10 прадмесцяў: Антокаль, Папоўшчына, Зарэчча, Паплавы, Роса, Востры Канец, Руднішкі, Пагулянка, Лукішкі, Сніпішкі. У горадзе пражывала каля 50 тыс. чал., з іх 6658 шляхціцаў, 272 купцы, 4930 мяшчан, 20 642 яўрэі, былі 1552 дамы (985 мураваных і 567 драўляных), 6 рынкаў (пад Замкавай брамай, на Віленскай вуліцы, за Траецкай брамай, за Рудніцкай брамай, на Зарэччы, рыбны). Дзейнічалі 25 касцёлаў, 20 кляштараў і 7 капліц. 2 уніяцкія царквы і 2 кляштары, 2 праваслаўныя царквы, 2 капліцы і манастыр, евангельскія касцёл і капліца, мячэць, 4 сінагогі.

У сярэдзіне 19 ст. ў **В.** праваслаўнае благачынне і 6 прыходаў, рымска-каталіцкі дэканат і 9 прыходаў; 7 паліцэйскіх, 6 судова-міравых, 4 судова-следчыя, 3 вайскова-конныя і 1 прызыўны пастарункі, 3 пастарункі падатковых інспектараў і 6 акцызнага нагляду, 32 паліцэйскія акалодкі, 195 гарадавых пастоў, 7 судовых прыставаў. У 1875 у горадзе пражывала 82 668 чал. Працавалі мужчынская і жаночая гімназіі, 6 пачатковых школ, прагімназія, рабінскае вучылішча, настаўніцкі ін-т; 49,7 % жыхароў былі пісьменнымі, з іх 60 % мужчын і 40 % жанчын. Паводле афіцыйнага перапісу 1897, у **В.** 154 532 жыхары, з іх 40 % яўрэяў,

Да арт. **Вільня.** Газета «Беларускі звон». 1922.

30 % палякаў, 20 % рускіх, 4,5 % беларусаў, 2,0 % літоўцаў, 3,5 % прадстаўнікоў інш. нацыянальнасцей; 61 % насельніцтва горада было пісьменным (69 % мужчын і 55 % жанчын). З сярэдзіны 19 ст. пачала развівацца прамысловасць. У 1860—62 праз В. пракладзена чыг. Пецярбург — Варшава, у 1874 — Лібава-Роменская. У 1864 адкрыта першая фабрыка (газавая), пачаў дзейнічаць чыгуналіцейны з-д Цымермана. Найбуйнейшае прадпрыемства таго часу — тытунёвая мануфактура Дурунчы і Шмемана — створана ў 1865. У пач. 1880-х гадоў адкрыўся шэраг прадпрыемстваў метала- і дрэваапрацоўкі, гарбарнай, харчовай прамысловасці. У 1894—95 у горадзе дзейнічалі 286 прадпрыемстваў (3220 рабочых), у 1906 — 255 (4200 рабочых), у 1914 — 266 (5260 рабочых). У 1897 створана акцыянернае т-ва піваварнага з-да Шопэна, у 1900 пачаў працаваць металаапрацоўчы з-д Вілейшыса (з 1911 акцыянернае т-ва «Вілія»). З пач. дзейнасці газавай ф-кі (1864) цэнтр. частка В. асвятлялася газай; спіртава-шкіпінарныя і алейныя ліхтары на інш. вуліцах былі заменены на газавыя ў 1876. У 1862—1914 В.— цэнтр *Віленскай ваеннай акругі*. У 1879—82 замест драўляных водаправодных труб пакладзены жалезныя. З 1893 пачала працаваць конка, з 1896 — тэлеграфная станцыя і тэлефонная сетка. У 1905 з'явіліся першыя аўтамабілі, у 1908 — трамвай. Да 1911 у В. 15 крэдытных устаноў, у т. л. аддзяленні Дваранскага і Сялянскага дзярж. банкаў, зямельны і камерцыйны банкі, т-ва ўзаемнага крэдыту і інш. У пач. 20 ст. ў горадзе існавалі 7 устаноў узаемадапамогі і 6 спажывецкіх т-ваў.

У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. В. была адным з цэнтраў рэв. руху на Беларусі і ў Літве. У час *паўстання 1863—64* тут дзейнічаў *Выканаўчы аддзел Літвы* на чале з К. Каліноўскім. Пасля задушэння паўстання царскія ўлады ў В. пакаралі смерцю Каліноўскага, З. Серакоўскага і інш. яго кіраўнікоў. У 1872—76 у В. існавалі народніцкія гурткі А. Зундзялевіча — Л. Давідовіча, М. Сакалова, Я. Вітарта, у якія ўваходзілі вучні віленскіх гімназій, яўр. настаўніцкага ін-та, дробныя чыноўнікі, былыя студэнты расійскіх ун-таў. У 1880—81 тут дзейнічала Віленская гміна — народніцкая арг-цыя, што мела сувязі з польскімі сацыялістычнымі і рус. народніцкімі гурткамі ў Маскве, Пецярбургу, Варшаве і інш. Пасля разгрому гміны яе былыя ўдзельнікі Л. Рымкевіч і Б. Ануфровіч наладзілі кантакты з польскай сацыялістычнай партыяй «Пралетарыят», гурткі якой узніклі ў В. восенню 1883. *Арганізацыя «Народнай волі» ў Паўночна-Заходнім краі* з цэнтрам у В. аб'ядноўвала нарадавольскія групы Віленскай, Мінскай, Гродзенскай, Ковенскай і інш. губерняў. У 1883—87 у горадзе існаваў народніцкі гурток А. Гнатоўскага, які меў сувязь з групай А. Ульянава і дапамагаў ёй рыхтаваць замах на Аляксандра III. У 1886—87 узніклі першыя с.-д. гурткі, пазней — Віленская цэнтр. група (Л. Іогіхес, В. Сяліцкі), што аб'ядноўвала ўсіх марксістаў горада. У канцы 19 — пач. 20 ст. існавалі групы Літ. с.-д. партыі (ЛСДП), Рабочага саюза Літвы (РСЛ), Польскай сацыяліст. партыі (ППС), РСДРП, Бунда. Тут адбыліся з'езды ППС (1893, 1895), РСЛ (1896), ЛСДП (1896, 1897), Бунда (1897). У 1901 створана *Віленская арганізацыя РСДРП*, у 1903 — *Паўночна-Заходні камітэт РСДРП*. У 1902 — 03 культурна-асв. гурткі бел. вучнёўскай і студэнцкай моладзі В. ўдзельнічалі ў стварэнні бел. рэв. грамады (гл. *Беларуская сацыялістычная грамада*). Летам 1905 у В. ўтвораны 2-і краёвы к-т БСГ, у чэрв. 1906 тут адбылася канферэнцыя гэтай партыі. У рэвалюцыю 1905—07 прайшлі паліт. стачкі, дэманстрацыі, мітынгі, узбр. сутычкі з паліцыяй.

На пач. 20 ст. ў горадзе было ўжо некалькі дзесяткаў навуч. устаноў, у т. л. настаўніцкі ін-т, 2 мужчынскія і 1 жаночая гімназіі, рэальнае, гарадское, тэхнічнае, чыгуначнае, пяхотна-юнкерскае, камерцыйнае і хіміка-тэхналагічнае вучылішчы, паштова-тэлеграфная школа, Літоўская духоўная і Рымска-каталіцкая епархіяльная семінарыі, Марыінскія вышэйшыя жаночыя курсы, царкоўна-прыходскія нядзельныя і пачатковыя школы, яўрэйскія настаўніцкі ін-т і аднакласнае пачатковае вучылішча. У 1869 у В. выйшла 155 неперыядычных выданняў (36 на рус., 7 на лац., па 3 на літ. і польскай мовах), у 1887—267 выданняў. Толькі друкарня Л. Завадскага ў 1854—65 выпусціла 348 кніг. У 1897 у В. 12 друкарняў, 5 літаграфій, 9 рэдакцый газет і часопісаў. Да пач. 20 ст. ў В. існавалі 7 пастаянна дзеючых навук. арганізацый і ўстаноў: *Віленскае медыцынскае та*

Да арт. **Вільня**. Газета «Крыніца». 1923.

*варыства, Паўночна-Заходні аддзел Рускага геаграфічнага таварыства*, аддзяленне Рус. тэхн. т-ва, аддзелы Расійскага т-ва пладаводства і т-ва «Прыхільнікаў рускай гістарычнай асветы ў гонар імператара Аляксандра III», т-ва сельскай гаспадаркі. У 1865 у В. заснавана публічная б-ка. Бібліятэкі існавалі таксама пры ўсіх сярэдніх навуч. установах; працавалі 2 яўр. б-кі для дзяцей і дарослых. Паводле царскага ўказа ад 2(14)4.1852 у В. створаны Цэнтр. архіў стараж. актавых кніг зах. губерняў (гл. *Віленскі цэнтральны архіў старажытных актаў*). З 1864 дзейнічала *Віленская археаграфічная камісія*, з 1855 — *Віленскі музей старажытнасцей*, пры якім па ініцыятыве Я. П. Тышкевіча створана *Віленская археалагічная камісія*. У 1872—76 створаны агульны архіў Віленскіх дзярж. устаноў. Дзейнічалі абсерваторыя (да 1883), 3 метэастанцыі. У 1898 заснаваны музей графа М. М. Мураўёва з архівам і б-кай, у 1899 — музей Віленскага ваен. сходу, у 1903 — пед. музей пры Віленскай навуч. акрузе. У 1905 у В. ўзнікла Літ. настаўніцкае аб'яднанне, у 1907— Саюз бел. настаўнікаў (гл. ў арт. *Беларускія настаўніцкія саюзы*), што ставілі сабе за мэту арганізацыю нац. школ у краі. У 1907 пачало дзейнічаць польскае Т-ва прыяцеляў навук, члены якога вывучалі бел. нар. культуру, збіралі бел. фальклор Віленшчыны; утворана Літ. навук. грамадства. У канцы 19 — пач. 20 ст. у В. працавалі 4 тэатры, перыядычна узнікалі нац. т-вы аматараў песні, музыкі, тэатра. З 1905 пачаў дзейнічаць польскі тэатр «Лютня», існавала літоўскае муз. т-ва «Віленскія гуслі». Наладжваліся бел. вечары і вечарынкі, на якіх выступалі *Першая беларуская трупа Ігната Буйніцкага, Беларускі музычна-драматычны гурток*. У 1910-я — пач. 1920-х гадоў у Віленскім настаўніцкім ін-це працаваў У. Ігнатоўскі, вучыліся С. Некрашэвіч, А. Чарвякоў, у 1906—15 у В. жылі пісьменнікі Я. Купала, Я. Колас, К. Буйло, З. Бядуля, Ядвігін Ш. і інш. Да 1913 тут выходзіла 16 перыядычных выданняў на рус. мове, 12 — на польскай, 9 — на літ., 5 — на яўрэйскай. На бел. мове з 1906 выдаваліся першыя бел. легальныя газ. *«Наша доля»*, *«Наша ніва»*, пазней — час. *«Саха»*. Працавалі *Беларускае выдавецкае таварыства, выдавецтва «Нашай нівы»*, выдавецкае т-ва *«Наша хата»*, друкарня М. Кухты, якая выпусціла многія бел. кнігі, першая бел. кнігарня. У пач. 20 ст. ў В. было 29 праваслаўных цэркваў, 2 саборы і 3 манастыры, 14 каталіцкіх храмаў і 1 сабор, 3 кляштары, малельня старавераў, 2 лютэранскія і 1 кальвіністкая цэрквы, 5 яўр. сінагог і 90 малітоўных дамоў, 1 мячэць, больш за 20 дабрачынных устаноў, у т. л. 2 дзіцячыя прытулкі. У 1911 у В. пражывала 186 461 чал., у 1916 — 140 800 чалавек. У 1-ю сусв. вайну горад акупіраваны герм. войскамі (1915—18). У вер. 1917 у В. створаны Савет Літ. краю (гл. *Літоўская Тарыба*) пранямецкай арыентацыі, які пазней стаў органам утварэння Літ. дзяржавы. З канца 1910-х гадоў В. паступова страчвае значэнне агульнанац. бел. цэнтра. Гэту ролю стаў выконваць Менск. Аднак В. і надалей заставалася важным апорным пунктам у бел. нац.-вызв. руху. Тут працягвалася дзейнасць нашаніўцаў у галіне бел. адраджэння, створаны і дзейнічалі каардынацыйныя органы бел. паліт. і грамадскіх арг-цый *Беларускі народны камітэт*, які замяніла сабой *Віленская беларуская рада, Беларускі нацыянальны камітэт*, знаходзілася кіраўніцтва *Беларускай сацыял-дэмакратычнай работніцкай групы*, адбыліся *Беларуская канферэнцыя 1918, Беларускі з'езд Віленшчыны і Гродзеншчыны*, выдавалася газ. *«Гоман»*, якая ставіла агульнанац. задачы грамадска-паліт. і культурна-асв. характару. Распачало дзейнасць *Беларускае навуковае таварыства*, з 1916 працавала *выдавецтва В. Ластоўскага*, якое выпусціла шэраг бел. падручнікаў і інш. кніг. Акрамя адкрытых у 1915—16 першых бел. школ, 1.1.1919 заснавана *Віленская беларуская гімназія*. У 1919 *Беларускае таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны* арганізавала ў В. бел. прытулак «Золак», які пры падтрымцы міжнар. гуманітарных *арг-цый ратаваў насельніцтва зруйнаванага* вайной краю ад голаду і галечы. Аднавіла спыненую вайной дзейнасць Бел. выдавецкае т-ва, якое зрабіла важкі ўклад у развіццё бел. асветы, пашырэнне нац. культуры, л-ры, павышэнне паліт. свядомасці народа. Пра актыўнае развіццё грамадскай думкі на віленскім грунце ў канцы 1910-х гадоў сведчыць з'яўленне перыядычных выданняў *«Грамадзянін»*, *«Беларуская думка»*, *«Беларускае жыццё»*, «Незалежная Беларусь», *«Наша думка»*, «Незалежная думка»; аднавіла выхад «Наша ніва». 16.2.1918 Літ. Тарыба абвясціла пра аднаўленне незалежнай, заснаванай на дэмакр. прынцыпах Літ. дзяржавы са сталіцай у В. У час акупацыі ў В. былі адкрыты спец. бел. настаўніцкія курсы. У 1916—20 дзейнічаў бел. клуб з драм. гуртком, у 1916 — бел. дзіцячы тэатр на чале з С. Корф. 14.8.1918 у горадзе адбылася нарада прадстаўнікоў сацыял-дэмакр. арг-цый Літвы і Зах. Беларусі; 1—3.10.1918 — першы з'езд Кампартыі Літвы і Зах. Беларусі. 8.12.1918 утвораны Часовы рэв. рабоча-сялянскі ўрад Літвы. *15.12.1918* Савет рабочых *дэпутатаў В. абвясціў сав. ўладу*, *В. стала* сталіцай Сав. Літвы. 27.2.1919 у В. адбы-

Да арт. **Вільня**. Газета «Беларуская доля». 1925.

лося першае пасяджэнне ЦВК Літвы і ЦВК Беларусі, на якім быў абраны агульны ЦВК Літвы і Беларусі (старшыня К. Г. Цыхоўскі) і СНК ЛітБела на чале з В. С. Міцкявічусам-Капсукасам. З 27.2 да 21.4.1919 В.— адм. цэнтр Літоўска-Беларускай ССР.

21.4.1919 В. і Віленскі край захоплены польск. войскамі. 14.7.1920 горад заняты Чырв. Арміяй. 9.10.1920 польскія войскі пад камандаваннем ген. Л. Жалігоўскага зноў захапілі В., стварыўшы тым самым *Віленскі канфлікт 1920—39.* З кастр. 1920 В. ў складзе Сярэдняй Літвы. Пасля падзелу тэр. Беларусі ў выніку *Рыжскага мірнага дагавора 1921* В. стала хутка набываць значэнне паліт. і культ.-інтэлектуальнага цэнтра *Заходняй Беларусі.* У горадзе ствараліся паліт., гасп.-эканам., асветныя арг-цыі, установы і т-вы. У 1921 Бел. нац. к-т аформіўся як прадстаўнічы орган бел. нац.-дэмакр. партый і арг-цый у Польшчы. У пач. 1920-х гадоў паліт. актыўнасцю вызначалася *Беларуская партыя сацыялістаў-рэвалюцыянераў.* Вясной 1922 з яе левага крыла выдзелілася самастойная *Беларуская рэвалюцыйная арганізацыя,* якая выдавала газ. «Наша будучыня», *«Вольны сцяг»* і інш. Прадстаўнікі *Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі* гуртаваліся вакол рэдакцыі газ. *«Беларускі звон».* Яны з'явіліся ініцыятарамі стварэння *Блока нацыянальных меншасцей,* з дапамогай якога ў 1922 на выбарах у польскі сейм і сенат беларусам удалося правесці 11 паслоў і 3 сенатараў. У сейме Польскай Рэспублікі яны арганізавалі *Беларускі пасольскі клуб.* Пасля ўтварэння восенню 1923 *Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі* (асн. друкаваны орган — газ. *«Чырвоны сцяг»*) у В. з перапынкамі нелегальна знаходзіўся да 1926 ЦК КПЗБ. Паступова пашырала ўплыў сярод бел. насельніцтва каталіцкага веравызнання *Беларуская хрысціянская дэмакратыя* (БХД; друкаваны орган — газ. *«Беларуская крыніца»*). Кароткі час на паліт. арэне дзейнічала на чале з П. Алексюком арг-цыя Краёвая сувязь, якая ў 1921—22 выдавала ў В. газету паланафільскага кірунку *«Раніца».* Невыразную паліт. арыентацыю мела згуртаванне Бел. грамадскае сабранне (кіраўнік С. Валэйша). У 1924—26 у В. існавала паліт. аб'яднанне бел. дзеячаў *Беларуская часовая рада* (друкаваны орган — газ. *«Грамадскі голас»*), якая аб'ядноўвала прыхільнікаў культурна-нац. аўтаноміі Беларусі ў рамках Польшчы. З 1921 у В. дзейнічала ўправа *Таварыства беларускай школы* (друкаваныя органы — «Летапіс ТБШ», «Бюлетэнь ТБШ», час. *«Беларускі летапіс»,* газ. *«Шлях»*) і Бел. кааператыўны банк з аддзяленнямі ў Пінску і Глыбокім. У 1921 студэнты-беларусы Віленскага ун-та арганізавалі *Беларускі студэнцкі саюз* (друкаваны орган — час. «Наш шлях», «Студэнцкая думка»), які стаяў на незалежніцкіх пазіцыях. Не спынялася маст. і літаратурнае жыццё. Дзейнічалі Бел. нар. тэатр, муз.-драм. гурток, тэатр. гурток Віленскай бел. гімназіі, вандроўныя тэатр. трупы, працаваў *Беларускі музей.* Таварыства «Беларуская хатка ў Вільні» выдавала час. *«Беларуская хата»* (1926), т-ва «Радом» — газ. *«Беларускі дзень»* (1927—28). У 1927 існавала арг-цыя маладых пісьменнікаў і мастакоў Зах. Беларусі «Веснаход». У В. і віленскай турме Лукішкі праходзілі «жыццёвыя універсітэты» зах.-бел. пісьменнікі М. Машара, А. Салагуб, М. Танк, В. Таўлай, Х. Ільяшэвіч, П. Пестрак, У. Паўлюкоўскі і інш. Яны друкавалі свае творы ў перыядычных выданнях *«Родныя гоні», «Нёман», «Авадзень», «Калоссе», «Маланка», «Крыгалом».* У сярэдзіне 1920-х гадоў у В. знаходзіліся Гал. сакратарыят і ЦК *Беларускай сялянска-работніцкай грамады* (БСРГ), выдаваліся газеты Грамады *«Жыццё беларуса», «Беларуская ніва», «Беларуская справа», «Народная справа», «Наша справа», «Наш голас», «Наша воля», «Народны звон»,* час. «Маланка» і інш. У 1925 паслы сейма В. Рагуля і Ф. Ярэміч заснавалі ў В. *Беларускі сялянскі саюз* (цэнтр. друкаваны орган — газ. *«Сялянская ніва»*), Я. Станкевіч — Бел. сялянскую партыю і яе газ. *«Народ».* Актывізавалася дзейнасць бел. праваслаўнай і асабліва каталіцкай канфесій. З мэтай пашырэння хрысціянскага веравучэння і бел. ідэі яны выдавалі часопісы і газеты *«Праваслаўны беларус», «Беларуская зарніца», «Светач Беларусі», «Хрысціянская думка»;* выходзіла уніяцкая газ. «Да злучэння». Пасля забароны БСРГ радыкальныя дэпутаты сейма стварылі ў В. Бел. сялянска-работніцкі пасольскі клуб *«Змаганне»,* які пераняў ідэйныя і арганізац. традыцыі Грамады. Але ў 1930 сакратарыяты «Змагання» былі ліквідаваны ўладамі, а лідэры арганізацыі зняволены ў турму. Аб'яднаць пад адным сцягам разгромленыя ў легальных арг-цыях бел. нац. сілы спрабавала група А. Луцкевіча (гл. *Беларуская санацыя*), што гуртавалася вакол газ. *«Наперад».* Бел. групоўкі і арг-цыі памяркоўнага кірунку аб'ядналіся ў 1930 у В. ў *Цэнтральны саюз культурных і гаспадарчых арганізацый* (Цэнтрасаюз). У заснаваным па ініцыятыве Бел. хрысціянскай дэмакратыі час. *«Калоссе»* друкаваліся прадстаўнікі ўсіх бел. творчых сіл і кірункаў. Друкарня імя Ф. Скарыны, арганізаваная хрысціянскімі дэмакратамі, выпускала навук., грамадска-паліт., маст. і рэліг. л-ру, час. *«Шлях моладзі»* і інш. Прадстаўнікі БХД з ліку моладзі ўваходзілі ў Бел. студэнцкі саюз і Т-ва беларусаведаў пры Віленскім ун-це. У 1927 сярод фабрычна-заводскіх рабочых В. распачало дзейнасць *Праваслаўна-беларускае дэмакратычнае*

...ара Гедзіміна ў Вільні. 1992.

Беларуская кнігарня ў Вільні. 1920-я гады.

*аб'яднанне.* Адбыліся *Віленскія забастоўкі абутнікаў 1927—28, Віленскія выступленні беспрацоўных 1930—34, Віленская забастоўка рабочых 1932, Віленскія забастоўкі рабочых завода «Электрыт» 1934—35* і інш. У 1930-я гады польскія ўлады забаранілі дзейнасць ТБШ і *Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры,* перасталі працаваць Бел. выдавецкае т-ва, *выдавецтва У. Знамяроўскага,* закрыўся бел. аддзел у *выдавецтве Б. А. Клецкіна.* Па ініцыятыве групы пранямецка настроеных бел. дзеячаў на чале з Ф. Акінчыцам у 1933 у В. пачала стварацца *Беларуская нацыянал-сацыялістычная партыя* (друкаваны орган — час. *«Новы шлях»*), якая, аднак, не мела падтрымкі сярод бел. насельніцтва. Створаны ў 1935 у Зах. Беларусі антыфаш. нар. фронт выдаваў у В. газ. *«Наша воля»,* Бел. нар. аб'яднанне — газ. *«Беларускі фронт».* У 1920—30-я гады ў В. жылі і працавалі дзеячы бел. адраджэння, навукі і культуры А. Луцкевіч, Тарашкевіч, У. Самойла, А. Станкевіч, С. Рак-Міхайлоўскі, І. Дварчанін, Р. Шырма, Г. Цітовіч, Ф. Аляхновіч, М. Танк, П. Сергіевіч, Я. Драздовіч і інш. Паводле сакрэтнага пратакола да дагавора паміж Германіяй і СССР аб ненападзе ад 23.8.1939 (пакт Рыбентропа — Молатава) Зах. Беларусь разам з В. прызнавалася часткай сферы ўплыву Сав. Саюза. У выніку паходу Чырв. Арміі ў Зах. Беларусь (вер. 1939) 19.9.1939 В. занята сав. войскамі. Было створана Часовае кіраванне В. і Віленскай вобл., выдавалася газ. *«Віленская праўда».* Сав. рэпрэсіўнымі органамі быў арыштаваны шэраг польскіх, яўр., а таксама бел. паліт. дзеячаў на чале з А. Луцкевічам. Некаторыя лідэры бел. нац. руху разам з А. Станкевічам эмігрыравалі ў Літву. Пад націскам сталінскага кіраўніцтва Сав. Саюза ўрад Літвы вымушаны быў падпісаць 10.10.1939 сав.-літ. дагавор аб узаемадапамозе. Паводле яго В. і Віленскі край перадаваліся Літве, на яе тэрыторыі былі размешчаны сав. ваен. базы. У ліст. 1939 літ. адміністрацыя ўзяла В. пад кантроль. Працавалі бел. гімназія і настаўніцкая семінарыя, вярнуўся з Коўна ў касцёл св. Міхала ксёндз Станкевіч. На 1-й сесіі Нар. сейма Літвы (21—23.7.1940, Каўнас) былі прыняты дэкларацыі аб устанаўленні Сав. улады і абвяшчэнні Літ. ССР. 3.8.1940 Літва ўвайшла ў склад СССР. 25.8.1940 Вярх. Савет Літ. ССР прыняў рашэнне аб пераводзе ў В. літ. ўрада і дзярж. устаноў. Віленская бел. гімназія была рэарганізавана ў прагімназію, потым стала называцца «няпоўнай сярэдняй школай». Бел. музей, дырэктарам якога стаў М. Пецюкевіч, быў уключаны ў структуру АН Літ. ССР. Адбываўся моцны прыток у В. літ. насельніцтва. 268 тыс. жыхароў (1941). 24.6.1941 горад акупіраваны войскамі гітлераўскай Германіі. Аднавілася дзейнасць дасав. літ. адміністрацыі ў асобе т. зв. Літ. самакіравання. Акупанты стварылі ў В. яўр. гета (каля 42 тыс. чал.), вязні якога былі знішчаны ў 1942. Працягвалі дзейнічаць бел. гімназія, настаўніцкая семінарыя, Бел. музей. У 1941 у В. ўзнікла бел. паліт. арг-цыя — Бел. нац. к-т (старшыня В. Іваноўскі, потым Б. Грабінскі). Выдавалася газ. *«Беларускі голас»* (рэдактар Ф. Аляхновіч). 13.7.1944 В. вызвалена Чырв. Арміяй. Пры адступленні гітлераўцы знішчылі каля 40 % жылога фонду горада, 30 % буйных прамысл. прадпрыемстваў. За час акупацыі загінула каля 70 тыс. жыхароў В. Пасля пераходу горада пад кантроль Чырв. Арміі былі закрыты бел. гімназія і настаўніцкая семінарыя, ліквідаваны Бел. музей, а яго фонды перададзены розным музеям і навук. установам Літвы,

Адкрыццё помніка братам І. і А. Луцкевічам на могілках Роса ў **Вільні.** 27.3.1993.

Панарама **Вільні.** 1992.

часткова перавезены ў БССР. 22.9.1944 паміж урадам Літ. ССР і Польскім к-там нац. вызвалення ў г. Люблін падпісана пагадненне аб эвакуацыі літоўцаў з Польшчы ў Літву і палякаў з Літвы ў Польшчу. 28.12.1944 у В. створаны адзін з трох рэгістрацыйных пунктаў для тых жыхароў горада, якія жадалі выехаць у Польшчу. Да 10.8.1946 запісаліся палякамі і праз В. выехалі ў Польшчу 86,9 тыс. жыхароў горада і наваколля, пазней — яшчэ каля 24 тысяч. Аднак неўзабаве сав. ўлады спынілі выезд. Адначасова праводзілася масавае перасяленне ў В сялян, у асн. з этнічнай Літвы. На працягу 1944—46 у горад прыбыло каля 100 тыс. новых жыхароў, усяго да пач. 1950 — каля 150 тысяч. Гэты працэс працягваўся і ў наступныя дзесяцігоддзі. Нацыянальны склад жыхароў горада мяняўся ў бок паступовага павелічэння колькасці літ. насельніцтва Адначасова праводзілася масавая паланізацыя беларусаў-католікаў, якіх афіц. статыстыка адназначна запісвала палякамі. У пасляваен. перыяд бел. культурнае і паліт. жыццё ў В было амаль поўнасцю спынена Практычна ўсе бел. дзеячы і іх сем'і патрапілі пад арышты і дэпартацыю. Аднаўленне дзейнасці нават у галіне бел. культуры было немагчыма з-за рэпрэсій КДБ і амаль поўнай змены этнічнай структуры насельніцтва горада. У 1960—80-я гады віленскія беларусы, што ацалелі пасля шматлікіх гадоў, праведзеных у сталінскіх лагерах і высылках, падтрымлівалі паміж сабой гал ч. асабістыя кантакты. Яны групаваліся ў асн. вакол мастака П. Сергіевіча, пісьменніцы Зоські Верас (Л. А. Сівіцкая) і інш. З пачаткам у СССР у 1985 працэсу паліт. лібералізацыі ў В. утвораны Т-ва бел. культуры (1987), клуб аматараў бел. нар. творчасці «Сябрына» і інш бел. аб'яднаінні. З іх дапамогай у В. праведзены 2-і вальны сойм бел. суполак (студз 1989), 1-ы з'езд БНФ (чэрв. 1989). З 1989 у В. вядуцца беларускамоўныя перадачы па літ. тэлебачанні і радые, з 1991 адноўлена выданне газ «Наша ніва», на ф-це славістыкі Віленскага пед. ун-та дзейнічае кафедра бел. мовы, л-ры і этнакультуры, набіраюцца курсы студэнтаў-беларусістаў; у 1993 адноўлена ТБШ, пачалі дзейнічаць бел класы (5-11) пры сярэдняй школе № 17, а таксама пачатковыя бел. класы (1—4) пры сярэдняй школе № 13 30.5.1992 у В. створана і дзейнічае Каардынацыйная рада Бел згуртаванняў у Літве У 1989 у В. пражывала 291,5 тыс. літоўцаў, 116,6 тыс. рускіх, 108,2 тыс палякаў, 30,3 тыс. беларусаў, 13,3 тыс. украінцаў, 9,1 тыс. яўрэяў.

*Літ* Василевский В Г Очерк истории города Вильны // Памятники русской старины в западных губерниях империи Спб, 1872—74 Вып 5—6, Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси Т 7 Вильна, 1870, Добрянский Ф Старая и новая Вильна 3 изд Вильна, 1904, Виноградов А А Путеводитель по городу Вильне и его окрестностям Ч 1—2 2 изд Вильна, 1908, Дружчыц В Места Вільня ў першай палове XVI сталецця // 400-лецце беларускага друку, 1525—1925 Мн, 1926, Памятная книжка Виленской губернии на 1864—1914 гг Вильна, 1864—1914, Кудринский Ф А Вильна в 1812 году Вильна, 1912, Полное собрание русских летописей Т 2, 32 М, 1962, 1975, Меркис В Развитие промышленности и формирование пролетариата Литвы в XIX в Вильнюс, 1969, История Литовской ССР Вильнюс, 1978, Ермаловіч М І Па слядах аднаго міфа 2 выд Мн, 1991, Зайкоўскі Э Беларусы ў старажытнай Вільні // Спадчына 1993 № 1, Kirkor A H Przewodnik po Wilnie Wilno, 1889, Wilno i ziemia Wileńska Zarys monograficzny T 1—2 Wilno, 1930—37, Vilniaus miesto istorija Vilnius, 1972, Drėma V Dingęs Vilnius Vilnius, 1991

*М А Ткачоў, С В Таляронак, А С Ліс, М А Сакалова, Ю Шаўцоў*

**ВІЛЮ́ГА** Сямен Лазаравіч [2(14).7. 1891, в. Усцярхі Бабруйскага пав., цяпер Глускі р-н — 7.1.1961], адзін з арганізатараў партыз. руху на Беларусі ў грамадз вайну. У 1917 у арміі вёў рэв работу сярод салдат, чл палкавога к-та. У час Кастр. рэв ўстанаўліваў сав. уладу ў Глускай і Ляскавіцкай валасцях Бабруйскага пав. У студз.— лютым 1918 арганізоўваў атрады Чырв. гвардыі для барацьбы з корпусам Доўбар-Мусніцкага. З ліст. 1918 старшыня Глускага рэўкома, з мая 1919 нам. Бабруйскага павятовага камісара па харчаванні. З ліст. 1919 нач. партыз. атрадаў у Бабруйскім і Рагачоўскім пав, камандзір асобага батальена імя Бабруйскага рэўкома. З мая 1920 упаўнаважаны РВС Зах. фронту, з ліп. 1920 упаўнаважаны Мазырскай групы войск Чырвонай Арміі па забеспячэнні харчаваннем. У 1924—56 на гасп. рабоце. Яго імем названы вуліца і завулак у Глуску.

*Літ* Хохлов А Г Красная гвардия Белоруссии в борьбе за власть Советов (март 1917 — март 1918) Мн, 1965

**ВІЛЯНСТО́ВІЧ** Павел Рыгоравіч (крас. 1891, в. Касцюкі Бабруйскага пав., цяпер Любанскі р-н — пасля 1955), партыйны і дзярж. дзеяч БССР. У 1913—17 у эміграцыі ў ЗША. Пасля Лют. рэв. 1917 на радзіме, бальшавік. З 1918 заг аддзела і в. а. старшыні рэўкома, чл пав рэўкома ў Бабруйску, нам старшыні пав. выканкома ў Рагачове. У 1921—23 заг. аддзела Бабруйскага, Мінскага, Мазырскага пав. выканкомаў. У 1924—29 сакратар Горацкага пав. і Аршанскага акр. к-таў КП(б)Б, нам. заг. аддзела прапаганды і агітацыі ЦК і адказны сакратар ЦКК КП(б)Б, нам наркома Рабоча-сял. інспекцыі, адначасова ў 1925—29 старшыня Цэнтр. бюро краязнаўства БССР Чл. ЦК у 1929—31, чл. ЦКК КП(б)Б у 1926—28. Чл. ЦВК БССР у 1926—29. З 1934 на гасп. рабоце ў Варонежы. У студз. 1938 незаконна рэпрэсіраваны і зняволены Рэабілітаваны 2.7.1955. Пасля вызвалення жыў у Ніжнім Ноўгарадзе

*Э А Карніловіч*

**ВІНА́ ПЕ́НЕЖНАЯ,** грашовы штраф у ВКЛ, пеня на карысць вял. князя за забойства або цяжкае калецтва вольнага чалавека. Паводле *Статута Вялікага княства Літоўскага 1588* В. п. спаганялася даволі часта і па сутнасці была гал. відам пакарання. Беспадстаўнае забойства каралася смерцю (віна крывавая), нават калі злачынства ўчыніў шляхціц. Статут вызначаў суму грошай, якую павінен быў унесці ў казну вінаваты. Памеры залежалі ад віду, характару і інш. акалічнасцей злачынства, а таксама ад велічыні кампенсацыі, якую выплачваў правапарушальнік пацярпеламу ці яго нашчадкам Улічвалася таксама сац. паходжанне і становішча пацярпелага ці яго правапераемнікаў Найчасцей памер В. п. быў роўны кампенсацыі, вызначаўся ў пэўнай суме. Кожны адказваў за сваю віну, дзеці не адказвалі за бацькоў.

*Т І Доўнар*

**ВІНАГРА́ДАВА** Аляксандра Сцяпанаўна (падп. псеўд. Каця; 2.8.1925, в. Курбатава, Чэрнскі р-н Тульскай вобл.— крас 1943), разведчыца, удзельніца *Віцебскага патрыятычнага падполля* ў Вял. Айч. вайну. Скончыўшы курсы радыстаў, у вер. 1942 у складзе армейскай разведгрупы П А. Крылатых накіравана ў акупіраваны Віцебск у якасці радысткі-разведчыцы. Наладзіла сувязь з падп. групамі М. Я. Нагібава і П. С. Смірнова, далучыла да разведвальнай работы камсамольцаў. Сав. камандаванне атрымлівала ад яе важную інфармацыю пра перамяшчэнне варожых войск і баявой тэхнікі праз чыг. ст. Віцебск. У лютым 1943 арыштавана і пасля катаванняў расстраляна У Віцебску яе імем названа вуліца, на доме, дзе яна жыла, устаноўлена мемарыяльная дошка.

**ВІ́ННАЯ МАНАПО́ЛІЯ,** выключнае права дзяржавы на вытворчасць і гандаль спіртнымі напіткамі. Займае важнае месца ў сістэме падаткаабкладання даходаў на карысць дзяржавы за кошт тавараў усеагульнага народнага спажывання. З 16 ст. вядома ў Расіі («царавы шынкі»), дзе ў розны час чаргавалася з адкупной сістэмай або існавала поруч з ей. У ВКЛ і Рэчы Паспалітай выключнае права на вытворчасць і продаж (шынкаванне) спіртных напіткаў належала феадалам (гл. *Прапінацыя*). Шынкі звычайна здаваліся ў арэнду за значную плату. Арандатары-шынкары, спойваючы і абіраючы сялян, нажывалі вялікія барышы На Беларусі такая сістэма захоўвалася і пасля далучэння яе да Расійскай імперыі. З 1894 па ініцыятыве міністра фінансаў Расіі С. Ю. Вітэ пачала праводзіцца пiцейная рэформа — спачатку ў 4 губернях (Арэнбургскай, Пермскай, Самарскай і Уфімскай), затым ва ўсей імперыі (з 1897 у Віцебскай, Магілеўскай і Смаленскай губ.). Гарэлка стала прадавацца толькі ў казенных крамах («манапольках») па дзярж. цане. Закон забараняў разбаўляць напіткі вадою, дабаўляць шкодныя рэчывы, прадаваць у крэдыт, пад залог рэчаў Казенная гарэлка прадавалася ў закаркаваным шкляным посудзе пад пячаткаю. Сядзелец (крамнік) атрымліваў за працу жалаванне і не быў зацікаўлены ў спойванні пакупнікоў. Пераход да В м афіцыйна тлумачыўся

жаданнем увесці спажыванне віна ў «нармальныя» рамкі, для чаго ствараліся *папячыцельствы аб народнай цвярозасці*. Адным з папячыцеляў быў бел. пісьменнік, гісторык і краязнавец А. К. *Ельскі*, аўтар «Слова аб праклятай гарэліцы і аб жыцці і смерці п'яніцы» (1900). У пачатку рэформы спажыванне казённай гарэлкі рэзка знізілася, але затым зноў стала ўзрастаць. Аматары спіртных напіткаў выносілі іх з «манапалькі» на вуліцу, пашырылася вулічнае п'янства. Увядзенне В. м. садзейнічала змяненню асартыменту вырабляемага віна, выцясненню малаалкагольных напіткаў, менш прыдатных для падаткаабкладання, высакаградуснай гарэлкай. У выніку рэформы даходы шынкароў і адкупшчыкаў (асоб, якія купілі ў дзяржавы права гандлю віном) перайшлі ў рукі ўрада, але на Беларусі значная частка памешчыкаў і гарадам страты былі кампенсаваны. У пач. 20 ст. В. м. разам з *акцызамі* давала 40—47,5 % агульнай сумы бюджэтных даходаў Расіі.

З пачаткам 1-й сусв. вайны продаж спіртных напіткаў 19.7.1914 забаронены царскім урадам. У 1923 у СССР іх дзярж. продаж адноўлены (разглядаўся спачатку як часовая мера для атрымання абаротных сродкаў на развіццё народнай гаспадаркі, найперш індустрыі). Хоць В. м. ў СССР не была поўнай (былі пашыраны самагонаварэнне і выраб віна ў хатніх умовах), яна з'яўлялася важным каналам папаўнення бюджэту. На працягу 1965—85 даход дзярж. бюджэту ў СССР ад продажу гарэлкі павялічыўся на 100 млрд. рублёў і склаў 170 млрд. руб. (1985). Пераход з канца 1980-х гадоў да рынкавых адносін садзейнічаў фактычнаму адраджэнню сістэмы водкупаў пры захаванні манаполіі дзяржавы на вытворчасць спіртных напіткаў. Вырабленая на дзярж. прадпрыемствах вінная прадукцыя стала з'яўляцца ў прыватным і кааператыўным гандлі па цэнах, у некалькі разоў вышэйшых за дзяржаўныя. Каб спыніць перапампоўванне даходаў з дзярж. бюджэту ў прыватныя рукі і з улікам незадаволенасці спажыўцоў адсутнасцю спіртных напіткаў у дзярж. гандлі, у 1992—93 на Беларусі прымаліся меры па аднаўленні В. м.

*Літ.:* Злотников А. Г. Алкоголизм — социальная патология. Мн., 1988; Скидан В. И. Народ против пьянства. Мн., 1988; Цярохін С. Ф. У фокусе канкрэтнага факта: Праўда і мана пра ап'яняльныя напіткі. Мн., 1988; Протько Т. С. В борьбе за трезвость: Страницы истории. Мн., 1988. *А. Г. Злотнікаў, В. І. Скідан.*

**ВІ́РКАЎ**, вёска, цэнтр сельсавета ў Клічаўскім р-не. За 22 км на ПдЗ ад г. п. Клічаў, 6 км ад чыг. ст. Тачанка на лініі Магілёў — Асіповічы. На ПдЗ ад вёскі праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Бярэзіна (прыток Дняпра). 193 двары, 428 ж. (1990).

Мясцовасць заселена ў эпоху бронзы, сведчаннем чаго з'яўляюцца 2 курганныя могільнікі і знойдзеная ў вёсцы ў канцы 19 ст. бронзавая фібула, упрыгожаная каляровымі квадратамі. У 8—10 ст. тут жылі дрыгавічы. Паводле пісьмовых крыніц вёска вядома з 17 ст. У 1651 яна ў складзе прыватнафеад. уладання Свіслач Мінскага пав. ВКЛ. Паводле 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) адышла да Расійскай імперыі. У 1838 уласнасць памешчыка, 165 рэвізскіх душ мужч. полу, у Бабруйскім пав. У 1847 было 48 двароў, 258 жыхароў. У 1884 адкрыта школа граматы, пераўтвораная ў 1916 у земскую. У 1897 у Свіслацкай вол.; 112 двароў, 696 ж., хлебазапасны магазін, пастаялы двор. У 1908 у вёсцы 101 двор, 946 жыхароў, у 1917 121 двор, 807 жыхароў. З лютага да ліст. 1918 акупіравана германскімі войскамі. З 20.8.1924 цэнтр сельсавета Свіслацкага, з 8.7.1931 — Клічаўскага р-наў. Дарэвалюцыйная школа пераўтворана ў працоўную школу 1-й ступені (49 вучняў у 1923). У 1922 утворана с.-г. арцель «Прагрэс», у 1930 — калгас імя Молатава. У 1940 у вёсцы 23 двары, 72 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У пач. 1942 партызаны выбілі з вёскі ням.-паліцэйскі гарнізон і аднавілі сав. ўладу; увайшла ў склад *Клічаўскай партызанскай зоны*. У вёсцы дзейнічала група самаабароны і сельсавет. У час блакад 1942—43 гітлераўскія карнікі спалілі вёску. Вызвалена 28.6.1944 войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. У партыз. атрадах і на франтах загінулі 82 вяскоўцы. Пасля вайны адбудавана. З 25.12.1962 да 5.1.1965 уваходзіла ў склад Кіраўскага р-на. У 1970 у вёсцы 229 двароў, 687 жыхароў. Цэнтр калгаса імя К. Маркса. Размешчаны майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, лясніцтва, камбінат бытавога абслугоўвання, 8-гадовая школа, дзіцячы сад, клуб, б-ка, фельчарска-акушэрскі пункт. У В. брацкая магіла сав. воінаў і партызан, якія загінулі каля вёскі ў Вял. Айч. вайну.

Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан у в. Віркаў.

**ВІРЫЁН** Карл Іосіф (?—1815), беларускі ўрач. Д-р медыцыны і хірургіі (1785). Медыцынскую адукацыю атрымаў у Францыі. У 1777—81 выкладаў анатомію чалавека і жывёл у *Гродзенскай медыцынскай акадэміі*. У 1782—1815 урач у Нясвіжы. У 1807 выбраны чл. Віленскага медыцынскага таварыства.
*В. С. Ялейнікава.*

**ВІСКО́ЎСКІ** Станіслаў Іванавіч (12.2.1839, Варшава — ?), удзельнік *паўстання 1863—64* на Беларусі. З дробнамаянтковай шляхты Мсціслаўскага пав. З 1858 студэнт Горы-Горацкага земляробчага ін-та (у 1863 быў на 4-м курсе). Адзін з кіраўнікоў рэв. студэнцтва, «першы запявала паміж студэнтамі», як характарызавалі яго царскія ўлады. Быў звязаны з дзеячам вызв. руху на Магілёўшчыне Т. Чудоўскім, вучыўся ў інстытуце на яго сродкі. У жн. 1861 прымаў удзел у с.-г. з'ездзе ў Горках. З 1(13).3.1863 паўстанцкі нач. г. Горкі. Па заданні рэв. арг-цыі ездзіў для сувязі і ўзгаднення планаў у Маскву і Пецярбург, прывёз адтуль зброю. У ноч на 24.4(6.5).1863 паўстанцы на чале з Віскоўскім і Л. М. *Звяждоўскім* захапілі Горкі. Удзельнічаў у баявых дзеяннях Горацкага паўстанцкага атрада. Пераканаўшыся ў бесперспектыўнасці ўзброенага паўстання на Магілёўшчыне, разам з іншымі паўстанцамі атрада склаў зброю. Падчас следства знаходзіўся ў зняволенні ў Магілёве і Вільні. Смяротны прыгавор заменены 12-гадовай ссылкай у Сібір на катаргу. У канцы 1870-х гадоў жыў у Іркуцку.

*Літ.:* Восстание в Литве и Белоруссии. 1863—1864 гг. М., 1965; В. [Ратч]. Очерки мятежного движения в Могилевской губернии... в 1863 году. Вильна, 1865; Цытовіч С. 1863 год у Горы-Горках, былш. Магілёўскай губ.: (Падзеі паўстання) // Зап. аддз. гуманіт. навук БАН. Мн., 1929. Кн. 8. Працы класа гісторыі, т. 3. *Г. В. Кісялеў.*

**ВІСКУЛІ́**, беларуская ўрадавая рэзідэнцыя каля б. хутара Віскулі Пружанскага р-на, у нац. парку *Белавежская пушча*. 7—8.12.1991 у В. адбылася сустрэча найвышэйшых кіраўнікоў Рэспублікі Беларусь, Расійскай Федэрацыі і Украіны, якія ад імя сваіх дзяржаў — заснавальніц Саюза ССР канстатавалі, што Савецкі Саюз як суб'ект міжнароднага права і геапалітычная рэальнасць спыняе існаванне, і падпісалі пагадненне аб утварэнні *Садружнасці Незалежных Дзяржаў*.

*Літ.:* Класкоўская Л., Класкоўскі А. Белавежская пушча: Старонкі мастацка-дакументальнай аповесці «Станіслаў Шушкевіч» // ЛіМ. 1993. 24 верас.

**«ВІСЛА»** («Wisła»), польскі краязнаўча-этнаграфічны ілюстраваны часопіс, орган польскага этналагічнага т-ва. Выдаваўся ў 1887—1905, 1916—1917, 1922 (усяго 21 т.) у Варшаве. Заснавальнік А. Грушэцкі, рэдактары Грушэцкі (1887), Я. Карловіч (1888—99), Э. Маеўскі (1899—1905) і інш. Асаблівая заслуга ў станаўленні часопіса належыць Карловічу, які ўзняў яго на ўзровень лепшых краязнаўча-этнаграфічных выданняў свету. У часопісе супрацоўнічалі пісьменнікі і вучоныя Я. Бадуэн дэ Куртэнэ, А. Брукнер, Л. Васілеўскі, Р. Завілінскі, Ф. Краўс, Л. Кшывіцкі, Х. Лапацінскі, В. Налкоўскі, М. Сумцоў, М. Федароўскі, І. Франко, С. Цішэўскі, А. Чэрны. Друкаваў матэрыялы па этнаграфіі, краязнаўстве, фалькларыстыцы, антрапалогіі, нар.

медыцыне, мастацтвазнаўстве Польшчы, у т л асобных сац-этнічных і этнаграфічных груп Змяшчаў агляды і рэцэнзіі на народазнаўчыя даследаванні (у т. л. на працы А. Кіркора, А. Сапунова і інш.), інструкцыі для збіральнікаў і даследчыкаў нар-паэтычнай творчасці, міфалогіі, дэманалогіі і інш., бібліяграфічныя звесткі, карэспандэнцыі, артыкулы пра этнографаў, краязнаўцаў, фалькларыстаў Публікаваліся справаздачы пра з'езды гісторыкаў, фалькларыстаў, лекараў і прыродазнаўцаў, пра краязнаўчыя, этнагр., антрапалагічныя, прамысловыя, с.-г. выстаўкі. Рабіліся агляды польскіх, рус, чэшскіх, балгарскіх, укр., нямецкіх і інш. часопісаў па этнаграфіі, гісторыі, краязнаўстве. «В.» змяшчала малюнкі і фотаздымкі з выявамі бел. нар. тыпаў, людзей у нац строях, вясковых пабудоў на Беларусі. Найбольш значныя працы, прысвечаныя бел этнаграфіі і краязнаўству «Падарожжа па Немане» З. Глогера (т 2, 1888), «Людзі і кветкі па берагах Немана» Э Ажэшкі (т. 2, 1888; т. 4—5, 1890—91), «Веска Камаровічы ў Мазырскім павеце» Э. Яленскай (т 5, 1891), «З жыцця беларускага люду» А Лантоўскага (т 9, 1895), «Рыбалоўства на Літве» Г. Радзевіча (там жа), «Лахва і яе жыхары» Н. Роўбы (там жа), «Народныя павер'і ў ваколіцах Крывіч у Вілейскім павеце» Я Кібарта (т. 13, 1899), «Святкаванне вяселля ў Вілейскім павеце ў ваколіцы Маладзечна і Радашковіч» С. Кавалеўскай (т. 14, 1900), «Народныя павер'і і абрады (забабоны, прымхі, варажба і г. д), сабраныя ў Віленскай губерні» В. Шукевіча (т. 17, 1903) і інш

*А Ф Літвіновіч*

**ВІСЛАВЎХ** (Wysłouch) Ігнацій Баляслаў Людвігавіч [10(22).11 1855, маентак Сохі Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Драгічынскі р-н — 13.9.1937), польскі грамадскі дзеяч, публіцыст. У 1874—79 вучыўся ў Пецярбургскім тэхналагічным ін-це. Захапіўшыся народніцкімі і сацыяліст. ідэямі, вёў рэв. прапаганду сярод бел. і польскага студэнцтва, быў знаемы з І. *Грынявіцкім*. У 1879 арыштаваны, але справа спынена з устанаўленнем тайнага нагляду паліцыі. З 1880 адзін з кіраўнікоў Варшаўскай сацыяльна-рэв. арг-цыі. Распрацаваў яе тэарэт. аснову, склаў новую праграму, якая мела дэмакр. характар, у т. л і па нац пытанні. У лют. 1880 арыштаваны, на 3 гады зняволены ў турму, год жыў пад публічным наглядам паліцыі ў маентку бацькоў. У 1884 выехаў у Галіцыю. У 1886—87 рэдактар львоўскага час «Przegląd Społeczny» («Грамадскі агляд»), у 1889 заснаваў газ. «Przyjaciel Ludu» («Сябар народа»). Гэтыя выданні садзейнічалі арганізацыйнаму афармленню польскага сял руху. У 1922—28 чл. польскага сената Разам з В. у грамадскім руху ў Польшчы і на Беларусі прымалі ўдзел яго жонка Марыя і яе маці С. А Баўфал, праз якую падтрымлівалася сувязь з дэмакр. коламі Варшавы, Вільні, Гродна, Віцебска. У 1887 Баўфал саслана на 2 гады ў г Сургут Табольскай губ.

*Літ* Деятели революционного движения в России Биобиблиогр словарь М, 1933 Т 3, вып 1, стб 600, Общественное движение на польских землях Основные идейные течения и полит партии в 1864—1914 гг М, 1988, Historia Polski T 3, cz 1 Warszawa, 1967 *В М Чарапіца*

**ВІСЛАВЎХ** Фелікс (Фелікс-Антон) Аўгусцінавіч [11(23).9.1833, Рэчыцкі пав. Мінскай губ.— пасля 1869], удзельнік *паўстання 1863—64* у Літве і на Беларусі З дробнамаянтковай шляхты. Вывучаў медыцыну ў Маскоўскім (1856—58) і Кіеўскім (1858—61) ун-тах. У 1861 тайна перабраўся за мяжу, праходзіў вайск. падрыхтоўку ў польскай ваен. школе ў Італіі. Пераканаиы дэмакрат, прыхільнік партыі *«чырвоных»*, пастаянна імкнуўся да шырокіх сувязей з народам, добра валодаў бел моваи. У пач паўстання паводле загаду Літ. правінцыяльнага к-та разам з былым студэнтам С. Бухавецкім на чале атрада распачаў баявыя дзеянні ў Свянцянскім і Ашмянскім паветах, але 3(15).2 1863 атрад быў разбіты непадалек ад Солаў Перанес дзейнасць у Трокскі пав. З канца мая 1863 паўстанцкі ваен. начальнік Трокскага пав., аб'ядноўваў дзеянні 3 атрадаў гэтага павета. Некалькі месяцаў вёў партыз. барацьбу супраць царскіх карнікаў на Віленшчыне, быў паранены. Як сведчаць дакументы, найперш ананімнае «Пісьмо ў атрад Віславуха» ад 16(28).6.1863, ведаў усе планы бліжэйшых паплечнікаў К *Каліноўскага* і падзяляў іх Паводле некаторых звестак, у апошні перыяд паўстання прызначаны кіраўніком паўстанцкіх узбр. сіл усей Віленскай губ. Пасля задушэння паўстання эмігрыраваў. У 1869 жыў у Парыжы ў цяжкіх матэрыяльных умовах.

*Літ* Паўстанне ў Літве і Беларусі 1863—1864 гг М., 1965 (Восстание 1863 года Материалы и документы), Смирнов А Ф Восстание 1863 года в Литве и Белоруссии М, 1963, Maksimaitiene O Lietuvos sukilėlių kovos 1863—1864 m Vilnius, 1969, Mineyko Z Z tajgi pod Akropol Wspomnienia z lat 1848—1866 Warszawa, 1971

*Г В Кісялёў*

**ВІСЛІЦКІ** Ян (1480—1520-я гады), паэт-лацініст ВКЛ і Польшчы Паходзіў з незаможнай сям'і з Беларусі або Польшчы. Скончыў Ягелонскі ун-т у Кракаве, дзе вучыўся пад кіраўніцтвам магістра паэта Паўла Русіна з Кросна (Украіна). Верагодна, у 1506 атрымаў ступень бакалаўра вольных мастацтваў, у 1510—12 працаваў у Ягелонскім ун-це ў якасці магістра (у рэктарскіх актах пазначаны як «русін»). Выступаў у пашыраных на той час жанрах — ода («Ода да караля Жыгімонта»), эпіграма, элегія, пасланне. Еўрапейскую вядомасць В. прынесла гіст. паэма «Пруская вайна» (Кракаў, 1516). У 1-й частцы твора паэт сцісла выклаў стараж. гісторыю Польшчы, напісаў пра дзейнасць легендарных Леха, Кракуса і Ванды 2-ю частку прысвяціў *Грунвальдскай бітве 1410*, якую падаў у панегірычна-дыдактычным плане з пазіцый дзярж. патрыятызму ў традыцыях еўрапейскай гераіка-эпічнай паэзіі. Адзін з першых паэтаў-гуманістаў усвядоміў эпахальнае значэнне перамогі над Тэўтонскім ордэнам для гіст лесу славян і прыбалтыйскіх народаў, уславіў гераічнае мінулае, ратную мужнасць воінаў, сцвердзіў ідэю гіст. еднасці і неабходнасці ваенна-паліт. саюзу славянскіх народаў перад іншаземнай пагрозай, падаў вобразы Ягайлы і Вітаўта. Асн. крыніцай для апісання бітвы паслужылі гіст. паданні і польскія хронікі. У паэме, насычанай вобразамі антычнай міфалогіі (напр., сцэна выбрання багамі на Алімпе жонкі для Ягайлы — Соф'і Гальшанскай), згадваюцца Белая Русь, *Клецкая бітва 1506* і *Аршанская бітва 1514*, «славутыя сваею мужнасцю на вайне» беларусы. Паэма стаць каля вытокаў жанру гіст. эпапеі ў польск., бел. і літоўскай л-рах, а яе аўтар — пачынальнік літ. традыцыі, якая атрымала далейшае развіцце ў творчасці М. Гусоўскага, М. Стрыйкоўскага, А. Міцкевіча. Найб. поўнае перавыданне твораў В. з навук. каментарыямі ажыццявіў у 1933 польскі даследчык Я. Смярэка. На Беларусі творчасць В. ўпершыню пачаў даследаваць Я Парэцкі, які зрабіў таксама і пераклад часткі паэмы на рус мову (апубл ў 1973)

*Тв* Bellum Prutenum Leopoli, 1933 (Zbior pisarzy polsko-łacinskich, 3)

*Літ* Голенищев-Кутузов И Н Итальянское Возрождение и славянские литературы XV—XVI веков М, 1963, Беларуская літаратура і літаратуразнаўства Вып 1 Мн, 1973, Дорошкевич В И Новолатинская поэзия Белоруссии и Литвы Первая половина XVI в Мн, 1979, Парэцкі Я І Ян Вісліцкі Мн, 1991

*В І Дарашкевіч, В А Чамярыцкі*

**ВІСНЕР** (Wisner) Генрык (н 25.8.1936, Варшава), польскі гісторык. Прафесар (1987) Скончыў Варшаўскі ун-т (1962). З 1961 працаваў у Цэнтральнай вайсковай б-цы, у выд-ве Мін-ва нац абароны, Ін-це сацыяліст. краін Польскай АН. З 1980 у Ін-це гісторыі Польскай АН. Даследуе ваенную гісторыю, гісторыю дыпламатыі Рэчы Паспалітай Аўтар прац па гісторыі ВКЛ.

*Тв* Wojna nie wojna Warszawa, 1978, Najjaśniejsza Rzeczpospolita Warszawa, 1978, Historia dyplomacji polskiej T 2 Warszawa, 1982 (у сааўт), Rozroznieni w wierze Warszawa, 1982, Kircholm 1605 Warszawa, 1987, Litwa i Litwini Olsztyn, 1991, 2 wyd Vilnius, 1993, Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystes valstybingumo pavojai Vilnius, 1991, Zygmunt III Waza Wrocław etc, 1991

**ВІТАН-ДУБЕЙКАЎСКІ** Лявон Іванавіч, гл. *Дубейкаўскі* Л. І

**ВІТАЎТ** (1350—27.10.1430), князь гарадзенскі, трокскі, вял. князь ВКЛ [1392—1430] Сын *Кейстута*. Адзін з самых выдатных дзярж дзеячаў ВКЛ. Правіў ва ўмовах складаных знешніх і ўнутр. абставін ням. агрэсіі, дыпламатычнай экспансіі Польшчы з мэтай аб'яднання ВКЛ і Польшчы ў адну дзяржаву, прэтэнзій Маскоўскага вял. княства на бел і ўкр. землі. В давялося лавіраваць паміж гэтымі небяспекамі, брацца у саюзнікі ранейшых ворагаў, варагаваць з былымі саюзнікамі. Выдатны паліт. такт і вопыт дзярж. дзеяча дазвалялі В зада-

вальняць не толькі дзярж. інтарэсы ВКЛ, але і асабістыя амбіцыі.

Актыўную паліт. дзейнасць пачаў у 1382 пасля забойства яго бацькі Кейсту-та па загаду *Ягайлы*. Каб адпомсціць [illegible]шняму, В. уцёк да крыжакоў, заключыў з імі саюз, прыняў каталіцтва, абавязаўся стаць васалам *Тэўтонскага ордэна*, аддаў ордэну Жамойцію (1384). У ходзе барацьбы з Ягайлам пераканаўся ў яе бесперспектыўнасці і згадзіўся на мір. Атрымаў ад Ягайлы Берасце і Гародню, большасць насельніцтва якіх складалі праваслаўныя, і перайшоў у праваслаўе. Аднак у час заключэння *Крэўскай уніі 1385* разам з Ягайлам і інш. князямі зноў прыняў каталіцтва. У 1388, упэўніўшыся ў небяспецы гэтай уніі для ВКЛ, незадаволены тым, што Ягайла прызначыў сваім нам. у ВКЛ *Скіргайлу*, а не яго, В. узначаліў барацьбу феадалаў ВКЛ супраць Ягайлы. Заключыў саюзы з вял. князем маскоўскім Васілем І, аддаўшы за яго сваю дачку Соф'ю, і з Тэўтонскім ордэнам, зноў аддаў крыжакам Жамойцію (у 1389). У выніку 2-гадовай упартай і жорсткай барацьбы было заключана *Востраўскае пагадненне 1392*, паводле якога ВКЛ аднавіла сваю самастойнасць, страчаную ў выніку Крэўскай уніі. В. стаў вял. князем ВКЛ. У хуткім часе супраць В. паўсталі князі Дзмітрый Северскі, Фёдар Карыятавіч Падольскі і *Свідрыгайла*. В. з дапамогай палякаў перамог іх, узяў у палон, адабраў іх удзельныя княствы, што з'явілася моцным ударам па ўдзельнай сістэме і садзейнічала ўмацаванню ВКЛ. Услед за *Альгердам* В. працягваў ранейшую палітыку ў адносінах Смаленска, Пскова і Ноўгарада. Выкарыстаўшы міжусобіцу смаленскіх князёў, у 1395 ён авалодаў Смаленскам, падпарадкаваў яго ВКЛ, прызначыўшы намесніка. У 1398, скарыстаўшы цяжкае становішча Ноўгарада і пагражаючы яму вайной, дамогся прызнання над горадам сваёй улады. Паспяхова завяршыў шматвяковую барацьбу Полацка за валоданне гэтымі гарадамі і іх землямі. У 1399 выступіў саюзнікам беглага татарскага хана Тахтамыша ў міжусобнай барацьбе і пацярпеў паражэнне ў *бітве на Ворскле 1399*. Смаленск і Ноўгарад скарысталі гэту няўдачу і ўзбунтаваліся супраць улады В. У гэты час улады Польшчы, разумеючы непрыняцце большасцю насельніцтва ВКЛ Крэўскай уніі, перайшлі да тактыкі паступовай дыпламатычнай экспансіі. Яны вымусілі ВКЛ заключыць *Віленска-Радамскую унію 1401*. У 1404 В. з дапамогай палякаў удалося ўціхамірыць Смаленск, але Ноўгарад, падтрыманы Масквой, выйшаў з-пад яго ўлады. Не змірыўшыся з гэтым, В. працягваў барацьбу за горад. Апошні раз ён хадзіў на Ноўгарад у 1428, што прывяло да вайны з Масквой, якая таксама прэтэндавала на горад. Тры разы В. хадзіў на Маскву, апошні раз у 1408. Войскі ВКЛ і Маскоўскага вял. княства сышліся на р. Угра. Не пачынаючы бітвы, В. і вял. князь маскоўскі Васіль І заключылі мір і вызначылі мяжу паміж ВКЛ і Маскоўскім вял. княствам па р. Угра (супадае з мяжой пашырэння бел. гаворак). Нягледзячы на тое, што В. неаднаразова ўступаў у саюз з Тэўтонскім ордэнам, крыжакі пастаянна нападалі на землі ВКЛ: у 1393 на Гародню, у 1394 на Ліду і Навагрудак, у канцы 1395 на Вільню. Для Польшчы ордэн таксама быў небяспечным ворагам. Маючы на мэце вярнуць пад сваю ўладу Жамойцію і разграміць ордэн, В. у цеснай садружнасці з Ягайлам рыхтаваў супраць крыжакоў паход аб'яднанага войска ВКЛ і Польшчы. У выніку перамогі ў *Грунвальдскай бітве 1410* і заключэння *Тарунскага міру 1411* Жамойція была вернута ў склад ВКЛ. Пасля заключэння *Гарадзельскай уніі 1413* пачаўся ад'езд з ВКЛ у Маскоўскае вял. княства праваслаўных князёў і феадалаў, а таксама пераход праваслаўных князёў і феадалаў у каталіцтва, што з цягам часу вяло іх да асіміляцыі і паланізацыі. Разумеючы ролю праваслаўнага насельніцтва ў ВКЛ, В. утварыў самастойную праваслаўную мітраполію на чале з Г. *Цамблакам* з цэнтрам у Навагрудку. Выношваў ідэю уніі каталіцкай і праваслаўнай цэркваў. Вымушаны ў знешняй і ўнутр. палітыцы арыентавацца на Польшчу, В. разам з тым імкнуўся да самастойнасці. Каб падкрэсліць гэта, ён у 1429 і 1430 спрабаваў атрымаць ад папы рымскага тытул караля і каралеўскую карону. У выніку польскіх інтрыг мэты не дасягнуў. Як і ў ранейшыя часы, так і пры В. федэратыўнае ВКЛ найперш вызначалася як бел. дзяржава. Усе найвышэйшыя пасады ў ВКЛ займалі выхадцы з Беларусі, з іх складалася і акружэнне В. Напрыклад, на Саленскай сустрэчы 1397 з крыжацкім пасольствам В. суправаджалі князі Юрый Пінскі, Міхаіл Заслаўскі, Аляксандр Старадубскі, Іван Альшанскі і Іван Друцкі. Нават у Жамойціі кіравалі бел. баяры, напрыклад, у Коўне — Іван Фёдаравіч, войскам камандаваў кн. Юрый. Сам В. і яго дваране, паводле сведчання пасла Тэўтонскага ордэна Кібурта, гаварылі па-беларуску, на бел. мове вялося і дзярж. справаводства. Усё гэта сведчыць пра тое, што дзярж. жыццё ВКЛ праходзіла ў бел. нац. формах.

Вітаўт.

П. Х. Вітгенштэйн. Гравюра Г. Доу па арыгінале Д. Доу. 1823.

*Літ.:* Полное собрание русских летописей. Т. 32, 35. М., 1975, 1980; Белоруссия в эпоху феодализма: Сб. документов и материалов. Мн., 1959. Т. 1. С. 99—119; Брянцев П. Д. История Литовского государства с древнейших времен. Вильна, 1889; Ермаловіч М. Старажытная Беларусь: Полацкі і новагародскі перыяды. Мн., 1990. *М. І. Ермаловіч.*

**ВІТГЕНШТЭ́ЙН** Пётр Хрысціянавіч [25.12.1768 (5.1.1769), г. Нежын (паводле інш. звестак г. Пераяслаў-Хмяльніцкі), Украіна — 30.5 (11.6).1843], рускі ваенны дзеяч. Граф, з 1834 князь. Ген.-фельдмаршал (1826). З роду *Вітгенштэйнаў*. Сын генерала рус. службы. На вайсковай службе з 1781. Як кавалерыйскі камандзір браў удзел у польскай кампаніі 1794, ваен. дзеяннях супраць Персіі ў 1795—96, руска-аўстра-французскай вайне 1805, у пачатковых аперацыях руска-турэцкай вайны (ліст. 1806 — студз. 1807), у кампаніі 1807 супраць Францыі. У час руска-шведскай вайны 1808—09 камандаваў корпусам. З кастр. 1810 камандзір 1-га пях. корпуса, які прыкрываў паўн. частку зах. граніцы Расіі. Да пач. ***Айчыннай вайны 1812*** корпус В. ўваходзіў у склад 1-й Зах. арміі М. Б. Барклая дэ Толі і ўключаў 5-ю (ген. Р. М. Берг) і 14-ю (ген. І. Ц. Сазонаў) пях. і 1-ю кавалерыйскую (ген. П. Дз. Кахоўскі) дывізіі — усяго каля 25 тыс. чал. У першыя дні вайны, нягледзячы на ізаляванае ад гал. сіл становішча 1-га корпуса ў раёне Расіены (Расейняй), Кейданы (Кедайняй), В. ўдалося пасля шэрага ар'ергардных баёў злучыцца з арміяй каля Браслава. Атрад ген. А. Ю. Гамена быў накіраваны для абароны Дынабурга (Даўгаўпілса). Пры сканцэнтраванні 1-й арміі ў Дрысенскім лагеры корпус В. быў разгорнуты ніжэй па цячэнні Зах. Дзвіны, а затым пакінуты для самастойных дзеянняў у раёне Дры-

сы — Полацка з мэтай прыкрыцця стратэгічнага напрамку на Пецярбург. З гэтага часу і да канца ліст. 1812 корпус В. фактычна быў асобнай арміяй. З франц. боку супраць В. застаўся корпус Н. Ш. Удзіно. 16(28) ліп. ён выступіў з Полацка ў напрамку на Себеж, але В. паспеў перасячы дарогу французам, і ў выніку жорсткіх баёў 18—20 ліп. (30 ліп.— 1 жн.) каля вёсак Якубова, Клясціцы, Сівошына і Галоўчыцы (гл. *Клясціцкія баі 1812*) Удзіно быў вымушаны вярнуцца да Полацка. Аднак В., даведаўшыся пра падзенне 20 ліп. (1 жн.) Дынабурга і пра адпраўку з Віцебска на дапамогу Удзіно корпуса Л. Гув'ён Сен-Сіра, не адважыўся штурмаваць Полацк і адвёў свой корпус да рубяжа р. Свольна. Удзіно паспрабаваў атакаваць гэту пазіцыю, але пасля бою 30 ліп. (11 жн.) каля мяст. Свольна В. перайшоў у контрнаступленне на Полацк. Бітва 5—6(17—18) жн. (гл. ў арт. *Полацкія бітвы 1812)* скончылася для рускіх няўдала: корпус В. панёс вялікія страты і адышоў да р. Дрыса. З сярэдзіны жніўня В. спыніў актыўныя дзеянні і абмежаваўся «малой вайной» — экспедыцыямі невялікіх рухомых атрадаў у Полацкім і Гарадоцкім паветах. За гэты час корпус В. атрымаў значныя падмацаванні, у т. л. дружыны Пецярбургскага і Наўгародскага апалчэнняў (нач. сенатар А. А. Бібікаў); колькасць корпуса вырасла да 40 тыс. чал. Апрача таго, да В. быў накіраваны ад Рыгі асобны корпус Ф. Ф. Штэйнгеля. Гэта істотна мяняла суадносіны сіл і дазваляла В. перайсці да наступальных аперацый. 7(19) вер. В. атрымаў з Пецярбурга новы план, які патрабаваў перанесці ваен. дзеянні за Зах. Дзвіну і адрэзаць шлях адступлення гал. сілам напалеонаўскай арміі. 4(16) кастр. корпус В. пачаў наступленне і на працягу 2-й Полацкай бітвы 6—8(18—20) кастр. выбіў французаў з Полацка, 11(23) кастр. перайшоў Зах. Дзвіну і 17(29) кастр. заняў Лепель. У выніку В. апынуўся ў глыбокім тыле праціўніка, не маючы магчымасці атрымаць дапамогу ад іншых рус. армій (армія М. І. Кутузава знаходзілася ў гэты час яшчэ ў наваколлі Малаяраслаўца, армія П. В. Чычагова — пад Брэстам), на падтрымку ж да Удзіно падышоў ад Смаленска корпус К. Віктора. Адбыліся цяжкія, з пераменным поспехам баі 19(31) кастр. пры Чашніках і 2(14) ліст. пры Смалянцах (гл. *Чашніцкі бой 1812*). В. захаваў ініцыятыву, але ў далейшым, у *Бярэзінскай аперацыі 1812*, дзейнічаў вельмі асцярожна, пазбягаючы рашучых сутыкненняў з праціўнікам да самага моманту яго пераправы цераз Бярэзіну. У снеж. 1812 В. змяніў Чычагова на пасадзе галоўнакамандуючага Зах. арміі; у крас.— маі 1813 камандаваў з'яднаным рускапрускім войскам, затым рускімі войскамі у складзе Багемскай (Галоўнай) арміі. У баях у 1812—14 неаднаразова быў паранены. З 1818 галоўнакамандуючы 2-й арміяй (гал. кватэра ў Тульчыне Падольскай губ.), член Дзяржаўнага савета. У 1828—29 камандаваў рус. войскам у вайне з Турцыяй. З 1829 у адстаўцы; жыў у сваім маёнтку Каменка ў Падольскай губ. Памёр у Львове.

*Літ.:* Ш т е й н г е й л ь В. И. Записки касательно составления и самого похода Санкт-Петербургского ополчения против врагов Отечества в 1812 и 1813 годах. Ч. 1—2. Спб.; М., 1814—15; Несколько приказов генерала от кавалерии графа Витгенштейна, отданных в Отечественную 1812 года войну // Рус. вестн. 1815. Кн. 12; З о т о в Р. Рассказы о походах 1812-го и 1813-го годов прапорщика Санкт-Петербургского ополчения. Спб., 1836; Х а р к е в и ч В. И. 1812 год в дневниках, записках и воспоминаниях современников: Материалы Воен.-учен. архива Главного штаба. Вып. 3. Корпус Витгенштейна. Вильна, 1904; П у ц и л л о П. Л. Записка о генерал-фельдмаршале князе П. Х. Витгенштейне // Рус. архив. 1906. № 6; В о л к о н с к и й С. Г. Записки. Иркутск, 1991; У ш а к о в С. И. Победы графа П. Х. Витгенштейна... Ч. 1—3. Спб., 1813—15; Военные подвиги и анекдоты графа П. Х. Витгенштейна... Ч. 1—3. М., 1814; Д о р м а н М. А. Оборона путей на Петербург, 1812. [М., 1912]; Lettres du feld-maréchal prince de Sayn — Wittgenstein — Berlebourg à sa femme pendant les guerres napoléoniennes 1804—1814. Lausanne, 1905; [W e n d t P. D.] Feldmarschall Fürst Wittgenstein // Rigaische Stadtblätter. 1843. № 45, 46, 48, 49, 52. *В. В. Антонаў.*

**ВІТГЕНШТЭ́ЙНЫ** (С а й н - В і т г е н ш т э й н ы, Sain-Wittgenstein), старажытны род імперскіх графаў у Германіі. Меў шмат адгалінаванняў. У 1761 падчас Сямігадовай вайны 1756—63 Хрысціян Людвіг Казімір В. з людвігсбург-карлсбургскай галіны роду трапіў у палон да рускіх і перайшоў на службу Расіі. З яго нашчадкаў найб. вядомы П. Х. *Вітгенштэйн* — военачальнік у час Айчыннай вайны 1812. Да гісторыі Беларусі мае таксама дачыненне яго сын князь Людвіг Леан (Леў Пятровіч) В. (1799—1866), які ў 1828 з асабістага дазволу імператара ажаніўся з яго выхаванкай Стэфаніяй Радзівіл (1809—32), дачкой Дамініка і адзінай законнай наследніцай згаслай нясвіжскай галіны Радзівілаў. З гэтым шлюбам да В. перайшла значная частка вялізных радзівілаўскіх маёнткаў: былыя Слуцкае і Капыльскае княствы, мястэчкі Глыбокае, Мір, Карэлічы, Смалявічы і інш. (каля 1,2—1,3 млн. дзес. зямлі, 40—120 тыс. душ). Гэта адразу ператварыла Людвіга Леана ў найбуйнейшага землеўладальніка на Беларусі. Ён пакінуў сына Пятра, які ў 1887 памёр без нашчадкаў, і дачку Марыю, якая выйшла замуж за германскага кн. Хлодвіга Карла Віктара Гагенлоэ (1819—1901), будучага імперскага канцлера Германіі. Апошняму перайшлі і бел. уладанні В., якія затым былі паступова распрададзены. Прадстаўнікі роду працягвалі служыць Расійскай імперыі да 1917. Іх нашчадкі цяпер жывуць у эміграцыі.

**«ВИТЕБЛЯ́НИН»**, інфармацыйна-рэкламная газета. Выдавалася ў 1909 у Віцебску на рус. мове. Вядомы 4 нумары. Змяшчала інфармацыю гандл. фірм і магазінаў пра новыя тавары, паведамляла аб працы майстэрняў, друкавала аб'явы, рэкламу. Газета бясплатна рассылалася дзярж. і грамадскім установам, прыватным фірмам, гасцініцам і інш.

**«ВИ́ТЕБСКАЯ ЖИЗНЬ»**, штодзённая грамадска-паліт., навуковая і літ. газета памяркоўна-ліберальнага кірунку. Выдавалася з 1(14).2 да 28.2(13.3).1906 у Віцебску на рус. мове. Выдавец — прысяжны паверы Ф. Ю. Држэвінскі, рэдактар — урач Р. Я. Брук. Выйшлі 22 нумары. Рэдакцыя абвяшчала, што апрача мясц. аўтараў з газетай будуць супрацоўнічаць лідэры кадэтаў П. Б. Струве, П. М. Мілюкоў, латышскі сацыял-дэмакрат П. І. Стучка. Выступала за буржуазна-дэмакр. рэформы, за мірны пераход ад паліцэйска-бюракратычных метадаў кіравання да канстытуцыйнай прававой дзяржавы. Надрукавала праграмны дакумент кадэтаў «Ад групы рускіх канстытуцыяналістаў», у якім асуджалася «тэрарыстычная група эсэраў» і ўрадавы тэрор супраць удзельнікаў рэв. руху. У інфармацыі пра з'езд гандлёва-прамысл. партыі (2—6.2.1906, Масква) крытыкавала кансерватызм акцябрыстаў. У арт. «Дыктатура пралетарыяту» А. С. Ізгоева з пазіцый кадэцкага лібералізму крытыкавалася тэорыя і паліт. тактыка бальшавікоў. Асуджала ваенна-палявыя суды і расправы над паўстанцамі на Беларусі, у Літве і Эстоніі, абараняла ад хлуслівых абвінавачанняў Латышскую арг-цыю РСДРП. Друкавала вершы, эцюды і апавяданні мясц. пісьменнікаў, змясціла фельетон пра палітыку прэм'ер-міністра С. Ю. Вітэ. Інфармавала пра тэатральнае жыццё ў Віцебску. *У. М. Конан*

**«ВИ́ТЕБСКИЕ ГУБЕ́РНСКИЕ ВЕ́ДОМОСТИ»**, газета, афіцыйны орган Віцебскага губернскага праўлення. Выдавалася з 1838 да 23.12.1917(5.1.1918) у Віцебску на рус. мове з рознай перыядычнасцю. Мела афіцыйны і неафіцыйны (з 1845) аддзелы. Афіцыйны змяшчаў пастановы і распараджэнні цэнтр. і мясцовых улад. Неафіцыйны меў значэнне самастойнай газеты, з 1901 выдаваўся асобна, асвятляў падзеі ў краіне і за мяжой, жыццё Віцебска, Полацка, Веліжа, Рэжыцы, Бешанковічаў і інш. нас. пунктаў губерні, друкаваў літ. творы, даследаванні па гісторыі, краязнаўстве, этнаграфіі, фальклоры (часам на бел. мове), змяшчаў артыкулы гаспадарчай тэматыкі. Як дадаткі да газеты выходзілі «Телеграммы «Витебских губернских ведомостей» (1887—92, 1895—1905) і «Народный листок» (1907; выйшла 8 нумароў). З 29.12.1905(11.1.1906) да 5(18).6.1907 замест неафіц. аддзела выходзіла прыватная газ. *«Витебский голос»*. Са студз. 1907 выданне неафіц. аддзела аднаўлена, 29.6.1912 спынена, замест яго стала выходзіць газ. *«Витебский вестник»*. Рэдактары афіцыйнай часткі: з 1870 А. Кенігсон, з 1872 М. Ціхаміраў і А. Ключараў, з 1873 Д. Лебедзеў, з 1875 М. Пранікаў, з 1907 М. Анцаў, у 1917 М. Сталеўскі і інш. Рэдактары неафіцыйнай часткі: з 1864 А. М. Семянтоўскі (у 1867—73 разам з А. Іверсенам, А. Сміра-

пым, Чубаравым, Кенігсонам, А. Сазоновым), з 1873 Лебедзеў, з 1875 І. Арлоў, з 1876 Пранікаў, з 1885 Ключараў і М. Мяшчэрскі, з 1887 В. Сафронаў і Ключараў, з 1892 І. Пілін, В. Арлоўскі, Е. Папрэценскі, у 1907 А. П. Сапуноў, у 1907—12 (розначасова) Анцаў, П. Манцэвіч, П. Кудраўцаў, Сталеўскі і інш. У газ. выступалі краязнаўцы, гісторыкі, этнографы І. Д. Гарбачэўскі, Дз. І. Даўгяла, Сапуноў, Семянтоўскі, І. Я. Спрогіс, Е. Р. Раманаў, журналісты І. В. Васільеў, Пілін і інш. Сярод публікацый газеты гісторыка-краязнаўчыя працы: «Нарысы простанароднага жыцця-быцця ў Віцебскай Беларусі і апісанне прадметаў ужытку» М. Я. Нікіфароўскага (1894—95), «Лепель, павятовы горад Віцебскай губерні» Дз. Даўгялы (1905, № 177, 183, 188, 199, 204, 209, 215, 221), «Хроніка аднаго маёнтка. Бачэйкава» В Цеханавецкага (1905, № 158—163), даследаванні Сапунова, а таксама бібліяграфічны паказальнік яго прац (1905, № 148). Друкаваліся матэрыялы пра археалагічныя даследаванні, выяўленыя помнікі, манетныя скарбы, у т. л. арт. Семянтоўскага пра знаходкі каменнага веку на Віцебшчыне (1887, № 13), справаздачы пра раскопкі курганных старажытнасцей Л. Лазарэвічам-Шапялевічам у Гарадоцкім, Невельскім і Себежскім пав. (1900, № 14, 153, 154), арт. К. Гаворскага пра археалагічныя даследаванні каля в. Рудня і Бяздзедавічы, каменныя крыжы і гарадзішчы ў ваваколлі Полацка (1852, № 32; 1860, № 11, 12) і інш. Надрукаваны «Кароткая нататка пра беларускую гаворку» У. Стукалічa (1895), яго рэцэнзія на кнігу М. В. Доўнар-Запольскага «З гісторыі грамадскіх плыняў у Расіі» (10.12.1905). Газета змяшчала дакументы па гісторыі Віцебшчыны («Прывілеі г. Веліжа 1585—1653 гг.», «Ліст караля Жыгімонта Аўгуста Невелю», «Урыўкі з дзённіка Яна-Уладзіслава Пачобута-Адляніцкага пра вайну 1660—1665 гг.» і інш.). У апошніх нумарах (1917, № 77, 78) афіцыйны аддзел газеты змясціў пастановы мясцовых органаў сав. улады.

*У. Дз. Будзько, М. В. Нікалаеў.*

**«ВИ́ТЕБСКИЙ ВЕ́СТНИК»**, штодзённая грамадска-паліт. газета расійска-шавіністычнага, вялікадзярж. кірунку. Выдавалася з 1(14).7.1912 да 16(29).4.1917 у Віцебску на рус. мове. Выдаўцы А. А. Ляхвіцкі, А. М. Велікотны, рэдактары Ляхвіцкі, П. В. Кудраўцаў, М. М. Сталеўскі, У. І. Медзякоў. Аб'ядноўвала вакол сябе мясц. актывістаў Саюза рускага народа і правых акцябрыстаў. Выдавалася на ўрадавыя сродкі. Друкавала перадавіцы афіцыёзнага зместу, афіц. ўрадавыя матэрыялы, хроніку, агляды рус. газет і часопісаў, аб'явы; мела рубрыкі: «Па Расіі», «З жыцця губерні», «Земскае і прыходскае жыццё», «Тэатр і музыка», «Замежныя весткі», «Бібліяграфічны аддзел». Беларусь газета называла спрадвечным «рускім краем», адзначаючы ў ім некаторыя мясц. асаблівасці. З апалагетычным пафасам успамінала пра далучэнне («вяртанне») Паўночна-Заходняга краю да Расіі ў канцы 18 ст. Сваёю мэтаю ставіла барацьбу за «святую справу ўкаранення ў сыноў і дачок Беларускага краю» рускай праваслаўнай свядомасці (1.7.1912), службу «самадзяржаўнаму цару і праваслаўнай веры». Свае надзеі ў справе поўнай русіфікацыі Беларусі газета ўскладвала на мясц. настаўнікаў, якія, паводле свайго службовага становішча і прызвання, павінны стаць рус. нацыяналістамі (5.7.1912). «Нашу ніву» называла праваднікам польскіх інтарэсаў на Беларусі (14.7.1912). У рэцэнзіі на польскі альманах «З ваколіц Дзвіны» (6—7.7.1912) нападала на творчасць Я. Купалы, назвала яго і Я. Лучыну, які памёр у 1897, «вядомымі польска-беларускімі пісьменнікамі» і актыўнымі супрацоўнікамі газ. «Наша ніва». У шэрагу публікацый салідарызавалася з «заходнярускім» варыянтам расійскага нацыяналізму газ. *«Северо-Западная жизнь»*. З пазіцый афіц. праваслаўя крытыкавала «богашукальніцтва» М. Бярдзяева, Я. Трубяцкога, Дз. Меражкоўскага, язычніцкую, антыхрысціянскую філасофію В. Розанава (арт. К. А. Смірнова «У цёмных рэлігійных промнях», 25.8 і 7.9.1912). Публікавала этнагр. даследаванні Е. Раманава, апавяданні і нарысы А. Пшчолкі, творы мясц. аўтараў, змясціла гіст.-краязнаўчы нарыс А. Сапунова «Французы ў Віцебску». У гады 1-й сусв. вайны прапагандавала патрыят.-абарончыя погляды. Пасля Лют. рэв. 1917 перайшла на памяркоўна-ліберальную пазіцыю, крытыкавала негатыўныя бакі «дарэвалюцыйнага ладу», адзначыла ролю тэатра ў псіхалагічнай падрыхтоўцы рэвалюцыі. *У. М Конан.*

**«ВИ́ТЕБСКИЙ ГО́ЛОС»**, штодзённая грамадска-паліт. і літаратурная газета. Выдавалася з 29.12.1905(11.1.1906) да 5(18).6.1907 у Віцебску на рус. мове. Выдаўцы барон А. Розен, з 1907 Г. Тэадаровіч; рэдактары І. Пілін, П. Стральцоў, з 1907 І. Васільеў. Да 1907 прытрымлівалася акцябрысцкага кірунку, замяняла неафіц. аддзел газ. *«Витебские губернские ведомости»*, хоць аб'явіла сябе прыватнай незалежнай газетай; пазней — прыватная газ. ліберальна-кадэцкага кірунку. У 1905—06 выступала супраць узбр. паўстання, у фельетонным стылі высмейвала «Зборнік рэвалюцыйных песень», выдадзены ў Віцебску ў 1906 мясц. к-там партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў. У арт. «Табліца рускіх палітычных партый» (2.3.1906) разглядзела ўвесь спектр паліт. плыняў ад «чорнай сотні» да сацыял-дэмакратаў і анархістаў. Падрабязна інфармавала пра V (Лонданскі) з'езд РСДРП (1907), не раскрываючы прозвішчаў, пераказвала праграмныя выступленні бальшавікоў, меншавікоў і бундаўцаў (11, 17, 19 і 22.5.1907). У 1907 была апазіцыйнай да ўрада П. Сталыпіна, асуджала жорсткія рэпрэсіі супраць удзельнікаў рэвалюцыі, імперыяліст. планы царызму ў руска-японскай вайне. Крытыкавала ўрадавую палітыку «адзінай і непадзельнай» Расіі. У арт. «Грамадская тэорыя Сталыпіна» В. А. Кадзеева (16.3.1907) выступала за культ.-нац. і тэрытарыяльную аўтаномію, якая, на думку аўтара, «не толькі не пацягне за сабой распаду, а, наадварот, маральна і юрыдычна больш цесна звяжа ўсе пасобныя часткі рускай дзяржавы, чым яны звязаны сёння». У нататках «Мясцовае пытанне» (15.2.1906) аўтар пад псеўд. «Белоруссъ» выступіў за адраджэнне нац. свядомасці, мовы і л-ры беларусаў, але толькі з мэтай вызвалення тутэйшых католікаў з-пад польскага ўплыву і збліжэння Беларусі з Расіяй. Газета вітала выхад *«Нашай нівы»* як сапраўды нар. выдання, якое не мае нічога агульнага з псеўданар. чарнасоценнымі лісткамі («Мясцовая хроніка», 21.1.1907). У тым жа нумары друкавалася рэцэнзія на апавяданне А. Пшчолкі, у якой аўтар Г. Т. (відаць, выдавец Г. Тэадаровіч) раскрытыкаваў «беларускага бытапісальніка» за кансерватызм і рэакц. тэндэнцыі ў паказе сял. жыцця. Апрача мясц. аўтараў, найперш Пшчолкі, газ. перадрукоўвала апавяданні, нарысы і артыкулы Л. Талстога, А. Купрына, М. Горкага, М. Салтыкова-Шчадрына, В. Неміровіча-Данчанкі, А. Чэхава, У. Дарашэвіча і інш. Надрукавала арт. бельгійскага драматурга М. Метэрлінка «Усеагульнае выбарчае права», у якім аўтар выкрываў крайнасці манархізму і анархізму, парламенцкую дэмакратыю тлумачыў толькі як «часовае вырашэнне» сац.-паліт. праблем. На яго думку, у будучыні людзі зразумеюць, што «грамадскае дабро» лепш ведаюць не выбраныя парт. прадстаўнікі, а інтэлектуальная эліта нацыі. Асвятляла тэатральнае і музычнае жыццё горада. У апошнім нумары газета змясціла маніфест імператара Мікалая II ад 3.6.1907 пра роспуск 2-й Дзярж. думы і змены ў выбарчым законе. *У. М. Конан.*

**«ВИ́ТЕБСКИЙ КРАЙ»**, штотыднёвы грамадска-паліт. і літаратурны часопіс ліберальнага кірунку. Выдаваўся з 30.10(12.11).1916 да 22.10(4.11).1917 [з 5(18).3 да 20.8(2.9).1917 не выходзіў] у Віцебску на рус. мове. Рэдактар-выдавец І. В. Васільеў, з 20.8.1917 М. Н. Гніларыбаў. Выйшла 20 нумароў. Часопіс выступаў за дэмакр. рэспубліку, вітаў Лют. рэв. 1917, асуджаў падрыхтоўку ўзбр. паўстання супраць Часовага ўрада. Чарговую задачу грамадства бачыў у тым, каб намаганнямі ўсяго народа дабіцца «свабоднага дэмакратычнага ладу на Русі як першага этапу светлай будучыні чалавецтва — сацыялізму» («Ад рэдакцыі», 20.8.1917). Паняцце «сацыялізму» часопіс разглядаў з рэфармісцкіх пазіцый як паступовае ўсталяванне грамадства роўных магчымасцей. У дачыненні да вайны часопіс спачатку прытрымліваўся пацыфісцкіх пазіцый, а пасля звяржэння царызму выступаў за абарону «рускай бацькаўшчыны». Часопіс агітаваў за адзінства ўсіх нацый, народаў і класаў у складзе Расіі, мірнае вырашэнне сац. і нац. канфліктаў. Кіраўнікі часо-

прыналежнасці да «Польскай вайсковай арганізацыі», этапаваны ў Мінск, расстраляны. Рэабілітаваны ў 1959. Аўтар прац па гісторыі нац.-вызваленчага і рэв.-дэмакр. руху на Беларусі, яго сувязей з рэв. рухам у Польшчы і Расіі, паўстання 1863—64 у Польшчы, на Беларусі і ў Літве.

*Тв.:* 1863 год на Міншчыне. Мн., 1927 (разам з О. Яневічам, Л. Лехам); Рэвалюцыйныя гурткі 70 гг. на Беларусі // Полымя. 1929. № 4; «Зямля і воля» 60-х гадоў і сувязь яе з паўстаннем 1863 г. // Там жа. 1930. № 4; Паўстанне 1863 года і расійскі рэвалюцыйны рух пачатку 1860 гадоў. Кн. 3. Мн., 1931; Przedmowa // Materjały dyskusyjne w sprawie reformy pisowni polskiej. Mińsk, 1932. S. III—VII. *У. М. Міхнюк.*

**ВІ́ТМАН** (Wittman) Францішак (Франц), музыкант і капельмайстар 18 ст. У 1749—60 узначальваў прыдворны аркестр кн. Г. Ф. Радзівіла ў Слуцку і Белай (цяпер Бяла-Падляска, Польшча). У Слуцку выступаў таксама ў драм. спектаклях (у адной з п'ес В. выконваў ролю Багацея, 1752). У 1756 выязджаў з групай музыкантаў у Нясвіж. Пасля смерці Г. Ф. Радзівіла (1760) запрошаны М. К. Радзівілам Рыбанькай узначаліць Нясвіжскую капэлу.

**ВІТУ́НІЧЫ,** вёска ў Бярозкаўскім сельсавеце Докшыцкага р-на. За 20 км на ПдУ ад Докшыц, 31 км ад чыг. ст. Параф'янава. 145 двароў, 404 жыхары (1992).

Узнікла на тэр. стараж. Харэцкай вол.— той яе часткі, якая ў 15—1-й пал. 16 ст. паслядоўна належала Манівідам, А. Судзімонтавічу, С. Б. Мантоўту, дачцэ апошняга Ганне (жонка Я. Ю. Глябовіча). У сярэдзіне 16 ст. спадчына Ганны адышла дзвюм яе дочкам ад шлюбу з Глябовічам, з якіх Хрысціна была жонкай Я. Ю. Камаеўскага. У гіст. крыніцах В. ўпершыню згадваюцца ў 1567, калі яны разам з суседнім Запоннем (Апоньем) належалі дачцэ Хрысціны Альжбеце Камаеўскай (на той час удава С. Кміты, потым жонка С. Нарушэвіча). Пасля Лівонскай вайны 1558—83 С. Баторый перадаў В. і Запонне ў якасці ўзнагароды за ваен. заслугі польскаму шляхціцу Хмялеўскаму. Пазней частка В. належала Кавячынскаму, які ў 1627 прадаў іх Я. Бурбе. У 1663 В. былі аддзелены ад маёнтка Дубраўка-Запонне і сталі цэнтрам асобага маёнтка, што ахопліваў вёскі Асінавік (6,5 валокі), Дубавік і Забор'е (па 10 валок). У гэты час В. ўяўлялі сабой невял. мястэчка (32 мяшчанскія пляцы), дзе быў панскі фальварак (20 валок). У 18 — пач. 19 ст.— уласнасць Хмялеўскіх і Карказевічаў. Уваходзілі ў Мінскі пав. У 1793 далучаны да Расійскай імперыі, увайшлі ў Докшыцкі, з 1797 — у Барысаўскі пав. Мінскай губ. У 1812 маёнтак складаўся з 17 сялянскіх і 17 шляхецкіх дымоў. У 2-й пал. 19 ст.— цэнтр Вітуніцкай вол. Барысаўскага пав. Мінскай губ., сяло з царквой і панскі маёнтак, які з 1863 належаў Навамейскім. З 17.7.1924 вёска В. ў Бягомльскім р-не, з 20.8.1924 цэнтр Вітуніцкага сельсавета (20.5.1960 перайменаваны ў Юхнаўскі); з 20.1.1960 у Докшыцкім, з 25.12.1962 у Глыбоцкім р-нах, з 6.1.1965 у Докшыцкім р-не. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія 30.5.1943 спалілі В., загубілі 124 яе жыхароў. Пасля вайны адноўлена. Цэнтр саўгаса «Вітунічы». 60 двароў, 190 жыхароў (1970). Васьмігадовая школа, клуб, б-ка, фельчарска-акушэрскі пункт, дзіцячы сад, аддз. сувязі, лясніцтва, 2 магазіны, сталовая. Брацкая магіла сав. воінаў і партызан, помнік ахвярам фашызму. Паблізу В. знаходзіўся каменны крыж з надпісам «Rex Stefan Batory» («Кароль Стэфан Баторый»). Нар. паданне звязвае ўстаноўку крыжа з месцам каралеўскага стану Баторыя ў час аднаго з яго паходаў у перыяд Лівонскай вайны. Камень-крыж зберагаецца ў Музеі валуноў Ін-та геалаг. навук АН Беларусі (Мінск). *В. Л. Насевіч.*

З. Д. Віхнін.

**ВІТУ́ШКА** Міхась (1907, г. Нясвіж — студз. 1945), беларускі палітычны і вайсковы дзеяч. Скончыў Віленскую бел. гімназію (1930), вучыўся ў Пражскім ун-це. У 1930-я гады ўваходзіў у склад урада Аб'яднання бел. студэнцкіх арг-цый у Празе, Варшаўскага асв. т-ва беларусаў. Напярэдадні 2-й сусв. вайны ўступіў у кантакт з абверам, вёў дыверсійную работу ў Зах. Беларусі. У жн. 1941 разам з У. Родзькам кіраваў аддзеламі Бел. самаахов (БСА) у час бел.-ўкр. антыбальшавіцкай аперацыі на Палессі. Пазней уваходзіў у Бел. нар. самапомач. Арганізоўваў разам з Д. Касмовічам аддзелы БСА на Смаленшчыне, удзельнічаў у баях супраць сав. партызан. Быў адным з лідэраў Бел. незалежніцкай партыі. Удзельнік 2-га Усебел. кангрэса (чэрв. 1944, Мінск). З ліп. 1944 выкладчык дыверсійна-разведвальнага батальёна «Дальвіц», быў прызначаны камандзірам яго спецгрупы. У канцы 1944 група В. была закінута ў Налібоцкую пушчу. Загінуў у час ліквідацыі групы органамі НКУС. *С. І. Ёрш.*

**ВІХНІ́Н** Залман Давыдавіч (ліп. 1909, в. Шчадрын Бабруйскага пав. Мінскай губ., цяпер Жлобінскага р-на — 26.9. 1943), Герой Сав. Саюза (1943). У Чырв. Арміі з 1939. Удзельнік вызвалення Зах. Беларусі ў 1939. З лют. 1943 на Ленінградскім і Цэнтр. франтах, удзельнік Курскай бітвы. Агітатар палка капітан В. вызначыўся пры вызваленні Камарынскага р-на. 25.9.1943 узначаліў групу прыкрыцця, якая фарсіравала Дняпро і забяспечыла пераправу 2 батальёнаў пяхоты. Загінуў у баі за вызваленне вёсак Бярозкі і Новая Ёлча. Пахаваны ў Чарнігаве ў брацкай магіле. Яго імем названа вуліца ў в. Шчадрын.

**ВІ́ЦЕБСК,** горад, цэнтр Віцебскай вобласці. За 300 км на ПнУ ад Мінска. Вузел чыгунак (напрамкі на Маскву, Санкт-Пецярбург, Оршу, Полацк) і аўтадарог. Порт на р. Зах. Дзвіна пры ўпадзенні ў яе рэк Віцьба і Лучоса. Аэрапорт. 367,7 тыс. жыхароў (1993). Падзяляецца на 3 раёны: Кастрычніцкі, Першамайскі, Чыгуначны.

Археал. раскопкі ў В. праводзілі ў 1895—96 А. П. Сапуноў, у 1960-я гады і пазней Л. В. Аляксееў, у 1960—70-я гады Г. В. Штыхаў, у 1960-я гады М. К. Каргер, у 1976—90 В. М. Ляўко, у 1977—79, 1983 М. А. Ткачоў, у 1977—83, 1988 Л. У. Калядзінскі, у 1981—88 Т. С. Бубенька, у 1982 П. А. Рапапорт, А. А. Трусаў, у 1986 І. М. Чарняўскі, І. А. Цішкін. Паводле археал. даследаванняў, першыя пасяленні чалавека на тэр. горада адносяцца да каменнага веку. На левым беразе Віцьбы пры яе ўпадзенні ў Зах. Дзвіну (пазнейшы *Віцебскі Верхні замак*) знойдзены каменная сякера тыпу «пальштаб» і сякера са свідраванай адтулінай, нажападобная крамянёвая пласціна і рэшткі вытворчасці — крамянёвыя адшчэпы. Знаходкі адносяцца да неаліту або ранняга перыяду бронзавага веку. У раннім жалезным веку за 100—150 м на У ад вусця Віцьбы на гары

Касцяны абразок з Віцебска. 12 ст.

размяшчалася гарадзішча днепра-дзвінскай культуры. У пісьмовых крыніцах 17—19 ст. гэта месца вядома як Замкавая гара (Ламіха). У 6—8 ст. на гары, а таксама на мысе ў сутоках рэк **Віцьба** і Зах. Дзвіна і на тэр. пазнейшага *Віцебскага Ніжняга замка* размяшчалася селішча банцараўскай культуры, на якім знойдзены рэшткі ляпнога посуду, гліняныя грузікі і праслiца. У 9—10 ст. на тэр. сучаснага В. існавала некалькі крывіцкіх паселішчаў. На мяжы 10—11 ст. у выніку аб'яднання паасобных паселішчаў склаўся горад. У 11 ст. ён меў дзядзінец пл. 0,7 га, які размяшчаўся на Замкавай гары, і пасад, што ўключаў тэрыторыю вакол дзядзінца і на правым беразе Віцьбы, на Дзвінскім узвышшы. У пазнейшых крыніцах пасад вядомы пад назвамі «Узгор'е», «Узгорскі пасад». Верагодна, у пач. 12 ст. на дзядзінцы пачалося буд-ва царквы св. Міхаіла як патранальнага храма віцебскіх князёў. У 1-й пал. 12 ст. на Замкавай гары і паселішчы на мысе ўзведзены новыя абарончыя ўмацаванні. У выніку сфарміраваўся ноны расшыраны дзядзінец пл. каля 4 га, з Пд да яго прымыкаў вакольны горад пл. каля 6 га, а на Пн ад дзядзінца, за р. Віцьба ў 12—13 ст. склалася перадграддзе. На Пд, за паўд. рукавом Віцьбы, быў гар. некропаль. Аснову планіроўкі В. складалі вулічныя маставыя, падпарадкаваныя рэльефу мясцовасці (выяўлены ў час раскопак на дзядзінцы, вакольным горадзе і перадграддзі). Маставыя шырынёй каля 2 м насцілалі з дошак або аполкаў на лагі, абапал вуліц размяшчаліся сядзібы гараджан (уключалі жылыя і гасп. пабудовы). У час раскопак на Верхнім і Ніжнім замках ускрыта больш за 170 пабудоў. Матэрыяльная

Герб **Віцебска**. 1597.

культура гараджан мела агульны ўсх.-слав. характар і ўключала вырабы з дрэва, косці, каменю, жалеза, каляровых металаў, шкла, гліны і скуры. Сярод знаходак берасцяная грамата 13—14 ст., праслiцы з надпісамі «Марьино» і «Бабино», залаты пярсцёнак, частка сахі, шахматы і шашкі і інш. Да сярэдзіны 14 ст. дзядзінец і вакольны горад былі абнесены мураванымі сценамі з вежамі і атрымалі назвы Верхні і Ніжні замкі, перадграддзе да канца 16 ст. называлася Вялікі пасад Завіцебны, пазней Астрог, Узгорскі замак (гл. *Віцебскі Узгорскі замак*). Сельскія паселішчы вакол замкаў ператварыліся ў слабоды — Задунаўская, Заручайская, Задзвінская, Узгорская. Планіроўка горада ў гэты час заставалася больш-менш устойлівай, матэрыяльная культура пры захаванні ўсх.-слав. рыс не пазбегла зах.-еўрап. уплываў, што праявілася ў выкарыстанні рамава-каркасных канструкцый, буйнапамернай цэглы, керамічнай дахоўкі, кафлі і інш. У канцы 16—17 ст. ў планіроўцы **В.** адбыліся прыкметныя змены, выкліканыя ўзнікненнем новага цэнтра — рыначнай плошчы і ратушы на Узгорскім замку, што было звязана з набыццём горадам магдэбургскага права. На фарміраванне матэрыяльнай культуры вял. ўплыў зрабіла цэхавая вытворчасць. Сваім абліччам большасць вырабаў гэтага часу блізкая да рэчаў традыцыйнай вытворчасці беларусаў 19 ст. Амаль да гэтай пары В. захоўваў і сваю планіроўку.

Фрагмент забудовы 13—14 ст. у **Віцебску**. Раскопкі Л. У. Калядзінскага і М. А. Ткачова. 1978.

В. (летапісны В и д б е с к, В и д е б с к, В и т ь б е с к, В и т е п е с к), паводле падання, зафіксаванага ў *Віцебскім летапісе* 18 ст., заснаваны вял. княгіняй Вольгай у 974. Назву атрымаў ад р. Віцьба. Займаў важнае месца на шляху «з варагаў у грэкі», таму да 1021 належаў вял. князям кіеўскім. У 1021 вял. кіеўскі кн. Яраслаў Мудры перадаў В. полацкаму кн. Брачыславу Ізяславічу. Пасля смерці полацкага кн. Усяслава Брачыславіча (1101) В. стаў цэнтрам удзельнага Віцебскага княства. У 1130—40-я гады горад належаў кн. Васільку Святаславічу, з 1165 — кн. Давыду Расціславічу. У 1167 горад вытрымаў аблогу мінскага кн. Валадара Глебавіча. У пач. 1180-х гадоў назіраецца збліжэнне В. з Чарнігавам і Ноўгарадам. Віцебскім князем стаў Брачыслаў Васількавіч, які разам з наўгародцамі, палачанамі і чарнігаўцамі ўдзельнічаў у паходзе на Друцк. У 1196 недалёка ад В. адбылася бітва паміж аб'яднанымі сіламі полацкіх і чарнігаўскіх князёў з аднаго боку і смаленскімі князямі з другога, якая скончылася перамогай полацкіх князёў, што вярнулі сабе віцебскае княжанне. У 1209 назіраецца збліжэнне В. з уладзіміра-суздальскімі князямі. Васілька Брачыслававіч аддаў сваю дачку замуж за ўладзімірскага кн. Усевалада Вялікае гняздо. У 1220—30-я гады В., відаць, належаў полацкаму кн. Брачыславу, які ў 1239 аддаў сваю дачку Аляксандру (паводле В. М. Тацішчава — Праскоўю) замуж за Аляксандра Неўскага. Апошні ў 1242 наведаў В., дзе гадаваўся яго сын. Верагодна, віцябляне разам з палачанамі і наўгародцамі ўдзельнічалі ў 1240 у Неўскай бітве і ў 1242 у Лёдавым пабоішчы. У 1262 упамінаецца віцебскі кн. Канстанцін, які разам з наўгародцамі прымаў удзел у паходзе на Юр'еў, захоплены крыжакамі, у 1265 — кн. Ізяслаў, які знаходзіўся ў залежнасці ад літоўскіх кн. Гердзеня, потым Войшалка. У канцы 13 — пач. 14 ст. ў В. княжыў Міхаіл Канстанцінавіч, з 1318 — Яраслаў Васілевіч, які аддаў сваю дачку Марыю замуж за крэўскага князя Альгерда Гедзімінавіча. У 1320 В. пасля смерці кн. Яраслава адышоў у спадчыну Марыі Яраслаўне, віцебскім князем стаў яе муж, вял. кн. ВКЛ Альгерд. У 1341 віцябляне на чале з Альгердам дапамагалі Пскову ў барацьбе супраць крыжакоў. З 1345 горадам валодаў кн. Андрэй Полацкі. Пазней

другая жонка Альгерда цвярская княжна Ульяна атрымала В. у пажыццёвае ўладанне (да 1393). У 1370-я гады В. валодаў Ягайла. Гіст. крыніцы паведамляюць, *што ў 1351* у В. было закончана буд-ва мураваных Верхняга і Ніжняга замкаў, княжацкага палаца. Ёсць падставы меркаваць, што яшчэ адзін мураваны пояс абароны быў створаны па краі гары Ламіхі. Пра «три стены камены» ў В. згадваецца таксама ў «Спісе рускіх гарадоў далёкіх і блізкіх» (14 ст.). Віцебскі абарончы комплекс быў адным з самых магутных у цэнтр. і ўсх. Беларусі. Агульная даўжыня ўмацаванняў складала 1,75 км. Магутнасць і непрыступнасць горада пацвярджаецца шматлікімі і працяглымі аблогамі, якім процістаялі замкі з канца 14 ст. У гэты час В. стаў цэнтрам міжусобнай барацьбы паміж сынамі і суродзічамі Альгерда за права валодання гэтым важным гандлёвым і стратэгічным пунктам усх. Беларусі. У 1393 яго ненадоўга захапіў вял. кн. ВКЛ Леў *Свідрыгайла*, які пасяхова адбіваў штурмы войск кааліцыі трох князёў — Вітаўта, Скіргайлы і смаленскага Юрыя Святаславіча. Толькі пасля 4-тыдиёвай аблогі з вял. цяжкасцямі быў узяты Ніжні замак. Потым. Вітаўт «заточив дела в церкви мурованой в Нижнем замку разбивал мур замку Вышнего беспрестанно». Зрабіўшы праломы ў сценах і вежах Верхняга замка, войска асаджаўшых пачало рыхтавацца да вальнага штурму, але моцны голад прымусіў віцяблян здаць замак без бою. У 1396 Свідрыгайла са згоды гараджан зноў заняў В., і войску Вітаўта яшчэ раз давялося штурмаваць горад. Ніжні замак быў узяты пасля 30-дзённай асады і вальнага штурму. Упартае супраціўленне аказалі абаронцы Верхняга замка. У выніку знаходжання тут вял. колькасці жыхароў была зроблена спроба вывесці жанчын і дзяцей. Аднак у адчыненай з гэтай мэтай браме здарылася замінка, і асаджаўшыя ўварваліся ўнутр замка. З 14 ст. В.— цэнтр *Віцебскага павета*. У 1435 Свідрыгайла ў трэці раз захапіў В. Горад 6 тыдняў быў у аблозе, але войска вял. кн. ВКЛ Жыгімонта Кейстутавіча ўзяць яго не змагло. Толькі ў 1437 «полочане и витебщане, не маючи собе ниотколь помочи, поддалися великому князю Жигимонту». З сярэдзіны 15 ст. В. паступова адраджаецца, павялічваецца колькасць яго жыхароў. У 1441 ён быў у ліку 15 найбуйнейшых гарадоў ВКЛ. У 1444 устаўной граматай вял. кн. ВКЛ Казіміра Ягелончыка В. нададзена абмежаванае самакіраванне. Грамата фактычна зафіксавала аўтаномію *Віцебскай зямлі* і значныя правы мясц. феадалаў, баяраў і мяшчан, у т. л. права суда над гараджанамі і права свабоднага гандлю ў межах ВКЛ. Ваявода прызначаўся ў В. са згоды віцяблян («по их воле»), а непажаданы змяняўся вял. князем па патрабаванні апошніх. Вял. князь абавязваў новапрызначанага ваяводу, каб той «приехавши... первого дня в Витебску, целовал крест ему и витебляном нашим». Адным з патрабаванняў да мясц. жыхароў быў удзел у ваен. паходах: «А на войну быти им с нами посполу готовый». Паводле *прывілея 1447* гораду і мяшчанам даваліся дадатковыя льготы. У 1451 і 1469 вял. кн. ВКЛ і кароль Польшчы Казімір IV інспектаваў умацаванні парубежнага В. Пазней новыя ўстаўныя граматы выдаваліся гораду ў 1503 вял. кн. ВКЛ Аляксандрам (гл. *Віцебскае права*), а таксама ў 1509, 1541, 1547 і 1561. Яны гарантавалі недатыкальнасць зямельных уладанняў феадалаў і мяшчан В. і Віцебскай зямлі, правы бяспошліннага гандлю і свабоднага выезду з горада ў межах дзяржавы (віцябляніну «путь чист, куды хочет»). У 1480 Казімір IV аддаў В. братам вял. кн. маскоўскага Івана III — Андрэю Вялікаму і Барысу, якія паднялі мяцеж супраць Івана III. Гэта ледзь не стала прычынай вайны, але праз год рус. князі памірыліся з Іванам III і ад'ехалі дамоў. У 16 ст. В. меў уласную адміністрацыю і суд, у структуры гар. самакіравання захаваліся традыцыйныя і характэрныя для часоў *веча* пасады: дзесятнік, сотнік, «муж»-старэйшына. Вінаватых маглі «судити и казнити в Витебску по их праву». Гараджане выбіралі са свайго асяроддзя войта, якога потым зацвярджаў вял. князь.

Касцяная пячатка з **Віцебска.** 17 ст.

У 15—16 ст. В. становіцца буйным гандлёвым і рамесным цэнтрам. Гандлёвыя шляхі з яго працягнуліся не толькі па тэр. ВКЛ, але і ў краіны Прыбалтыкі, у Германію, Чэхію, Італію, Венгрыю, Маскоўскую дзяржаву і інш. Найбольш інтэнсіўна гандлявалі з Цвер'ю, Ноўгарадам і Псковам, з якімі ў 1420—40-я гады заключаліся дагаворы. Віцебскія купцы вывозілі ў рус. гарады мясц. прадукцыю (зерне, крупы, гарох, канапляны і льняны алей, хмель, пяньку, паташ, футра) і закупленыя ў замежных купцоў на перапродаж тавары (сукно, шаўковую і мультановую тканіну, золата, каштоўныя камяні, жэмчуг, усх. прыправы). Адным са сведчанняў гандлёвых сувязей В. з замежжам з'яўляецца *Віцебскі манетны скарб*. У горадзе павялічвалася колькасць рамеснікаў, з'явіліся цэхі кавалёў, ганчароў, гарбароў, сталяроў, збройнікаў, кафляроў і інш. Выраслі новыя пасады — Узгорскі, Кстоўскі, Задунаўскі, Заручайскі, слабада Русь на правым беразе Зах. Дзвіны. Як і інш. гарады Беларусі, В. меў стройную сістэму арганізацыі абароны. Яна ўключала гар. апалчэнне (падзялялася на дзесяткі і сотні), коннае мяшчанства (гл. *Віцебскія конныя мяшчане*) і гарнізон наёмнага войска (у час ваен. дзеянняў стаяў звычайна ў замках). Наёмнікі набіраліся ў Гер-

«Чарцёж» **Віцебска.** 1664.

маніі, Італіі, Чэхіі, Венгрыі, Галандыі. Вядомы сотні Узгорская, Верхняга замка, Задзвінская, Задунаўская, Заручайская. З пач. 16 ст. В. апынуўся ў паласе частых ваен. паходаў рас. ваяводаў. У 1502 яны спалілі прадмесці горада. У 1516 В. вытрымаў працяглую аблогу, нягледзячы на недахоп артылерыі і харчавання. Чарговы напад адбыўся ў 1519 — рускія ўзялі Ніжні замак, дзе загінула шмат жыхароў. Уцалелыя адседзеліся ў Верхнім замку. У 1534 кн. Б. І. Гарбаты разам з наўгародска-пскоўскай раццю спустошыў усе ваколіцы горада, аднак авалодаць ім не здолеў. У ліп. 1535 рус. ваяводы Кісліца і Ляцкі з 40-тысячным войскам і 40 гарматамі прыйшлі ў Вял. Лукі, адкуль збіраліся рушыць на В. Частка жыхароў В. з намеснікам ваяводы Васількам, баярамі і купцамі гатовы былі здаць горад без бою. Гэты летні паход Кісліцы і Ляцкага, відаць, не адбыўся. Аднак у канцы ліст. 1535 наўгародска-пскоўская раць на чале з Гарбатым і 10 князямі спустошыла Віцебшчыну і «воевали Витепские места». Летам 1536 войска кн. Гаранскага і Барбашова спаліла віцебскі пасад, узяло ў палон многіх гараджан і валашчан, захапіла вял. трафеі, але Верхнім і Ніжнім замкамі не авалодала. У Лівонскую вайну 1558—83 рускім таксама не ўдалося заняць В., хоць яны тройчы асаджалі горад. У канцы мая 1562 вял. войска на чале з кн. А. М. Курбскім «с товарыщи» хадзіла ад Вял. Лук да В. Ратныя людзі «острог взяли и пожгли посады у города у Витебска все пожгли и наряду в остроге поимали и людей в остроге многих побили и села и деревни около Витебска пожгли и повоевали места многие. А назад идучи от Витебска, ... многие литовские места повоевали, и пришли дал Бог, на Луки здорово». Пасля нападу на В. у 1563 пачалася маравая пошасць, якая цалкам абязлюдзіла горад. У выніку аблогі ў 1568 (паводле інш. звестак у 1569) значную частку В. спаліла 6-тысячнае войска кн. Шарамецева, Бутурліна і Сабурава. Верхні замак вытрымаў 3-дзённую асаду. Каля 1506 заснавана *Віцебскае ваяводства.* Першым ваяводам быў прызначаны Юрый Глябовіч. Тады ж зацверджаны герб ваяводства — «Пагоня». У 1503 і 1509 гораду дадзены прывілеі, якія рэгулявалі ўнутраны парадак і адносіны з велікакняжацкай уладай. 17.3.1597 вял. кн. ВКЛ, кароль Польшчы і Швецыі Жыгімонт III Ваза даў В. магдэбургскае права, дзе выказвалася надзея, што жыхары горада пасля яго атрымання «не только стан свой лепшым учиняли, але теж кгды ся размножать и в маентности запомогуться и место нашо тамошнее, на котором нам и Речи Посполитой не мало залежит за часом лепей и доскоиалей обваровано и в большую беспечность против каждого неприятеля приведено мети могут». В. атрымаў уласны герб — «в блокитном полю образ святого Спаса Збавителя нашого и при том зараз трохи нижей меч голый червоный, што ся маеть разуметь кровавый»,— а таксама харугву, пад якую мяшчане станавіліся «под час посполитого рушенья и потребы военное». Харугвы атрымалі і ўсе рамесныя цэхі. Паводле магдэбургскага прывілея В. дазвалялася мець сваю пячатку, *Віцебскую ратушу* і гасціны двор, штогод праводзіць кірмаш. Органам гар. самакіравання стаў магістрат, што складаўся з радцаў і лаўнікаў на чале з войтам. Аднак В. страціў права выбіраць войта, якога цяпер прызначаў вял. князь. Акрамя таго ён падараваў В. за ваен. заслугі загарадны палац Лукішкі з прылеглымі вёскамі і перавозам цераз р. Лучоса. У В. было шмат *юрыдык.* Грамата на магдэбургскае права значна абмежавала іх правы, ураўнавала гараджан пад уладай магістрата, садзейнічала ўздыму эканомікі, ажыўленню гандлю. У 1602 В. абрабаваны запарожскімі казакамі на чале з атаманам Дубінай, якія вярталіся дадому з *вайны Рэчы Паспалітай са Швецыяй 1600—29.* На гэтай жа вайне віцебская мяшчанская харугва колькасцю 500 чал. пад камандаваннем Марка Ільіча Лыткі авалодала ў 1605 замкам Феліна, за што Лытка быў уведзены ў шляхецтва і атрымаў прозвішча Фелінскі. З 2-й пал. 16 ст. В. становіцца месцам дзеяння розных рэліг. плыняў у хрысціянстве. У 1562 тут утварылася абшчына кальвіністаў, куды ўваходзілі багатыя гараджане і члены магістрата — бурмістры і радцы. У 2-й пал 16—1-й пал. 17 ст. распаўсюдзіліся праваслаўныя брацтвы, якія адкрывалі школы, імкнуліся да захавання бел. мовы і культуры, выступалі супраць акаталічвання і паланізацыі, прызнання уніяцкай царквы. 12.11.1623 у В. ўспыхнуў бунт супраць полацкага уніяцкага архіепіскапа І. Кунцэвіча (гл. *Віцебскае паўстанне 1623*). Ён быў задушаны каралеўскім войскам, а горад пазбаўлены магдэбургскага права. Яно было вернута В толькі ў 1644 разам з правам бяспошлннага гандлю ў межах ВКЛ. У горадзе існавала развітая сістэма адукацыі. Можна меркаваць, што ўжо ў эпоху Кіеўскай Русі многія віцябляне былі пісьменныя. Пра гэта сведчаць разнастайныя знаходкі, у т. л. стыло (пісалы), падпісаныя прасліцы, берасцяная грамата шматлікія прадметы з надпісамі і літарамі і інш. У 14—18 ст. пры праваслаўных каталіцкіх і пратэстанцкіх храмах і манастырах горада існавалі школы. У 1682 адкрыты *Віцебскі езуіцкі калегіум* У 1775 упамінаецца піярскі калегіум дзейнічалі праваслаўныя брацтвы і базыльянскія школы. У В. вялося летапісанне. Віцебскі летапіс падае хроніку жыцця В. і Віцебшчыны да 1737.

У сярэдзіне 17 ст. В. з'яўляўся буйным ваяводскім адміністрацыйным, рамесным і гандлёвым цэнтрам, у якім налічвалася больш за 1 тыс. дамоў, каля 10 тыс жыхароў. Тут развіваліся гарбарнае, ганчарнае, кафлянае, васкабойнае рамёствы дрэва- і металаапрацоўка, кушнерская справа, мёда- і піваварэнне і інш. Найбольш суровыя выпрабаванні выпалі на долю віцяблян у час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67.* Пасля амаль 3-месячнай аблогі 20-тысячнае войска рус ваяводаў і ўкр. казакаў 22.11.1654 узяло В. штурмам. У баях жыхары, хоць і пакутавалі ад голаду і недахопу зброі, паказалі мужнасць і гераізм і ў большасці сваёй загінулі. Значная частка шляхты і яўрэяў трапіла ў палон. Шмат віцебскіх рамеснікаў (збройнікі, ювеліры, разьбяры па дрэве і косці і інш.) былі прымусова адпраўлены ў Маскву на работы ў розных царскіх Прыказах. Тых жыхароў, што засталіся ў горадзе, рус. ваяводы прымусілі прысягнуць цару. Акупацыя В працягвалася 13 гадоў, вернуты Рэчы Паспалітай паводле *Андросаўскага перамір'я 1667.* У Паўночную вайну 1700—21 у В. ў 1701 знаходзіўся генштаб рус. арміі і частка яе войск. Тройчы тут быў Пётр І. У ходзе вайны В. быў на баку

Рака Заходняя Дзвіна ў Віцебску. 1894.

польскага караля С. Ляшчынскага, саюзніка шведскага караля Карла XII, якому горад перадаў 7 тыс. талераў. За гэта па загаду Пятра I карны атрад калмыкаў на чале з капітанам Салаўёвым 28.9.1708 спаліў замкі, горад, ратушу, крамы, усе пасады, 12 цэркваў, 4 касцёлы. Уцалела толькі Зарэчча, якое адкупілася за 600 талераў бітых. З гэтага часу пачаўся заняпад эканомікі В., які да таго ж часта цярпеў ад пажараў. 2.5.1752 згарэлі замак, Благавешчанская царква, плябанія, комплекс езуіцкіх будынкаў, многа дамоў, 6.5.1757 — рэшткі замка, 12.5.1757 — большая частка Верхняга замка, 3 царквы, 2 касцёлы.

У 1772 у выніку 1-га падзелу Рэчы Паспалітай В. далучаны да Расіі. У 1772—77 быў цэнтрам *Віцебскай правінцыі*. Як павятовы горад уваходзіў у склад Пскоўскай, з 1776 — Полацкай губ., з 1796 — цэнтр Беларускай, з 1802 — *Віцебскай губерні*. У 1781 зацверджаны новы герб В.: на чырвоным з сярэбранымі палосамі фоне выява «Пагоні». Паводле *Даравальнай граматы гарадам 1785* горадам кіравала гар. дума. Магістрат захаваўся як судовы орган. У 1777 у В. пачало дзейнічаць першае прамысл. прадпрыемства — гарбарнае, пазней узніклі кафлянае, канатнае, вапнавае, з 1797 працавала *Віцебская губернская друкарня*. У 1804 з В. ў Пецярбург і Кіеў адпраўлены 355 суднаў і 2 плыты грузаў. Цэнтр горада забудоўваўся 2- і 3-павярховымі дамамі. У 2-й пал. 18 ст. В. стаў другім па велічыні (пасля Магілёва) горадам Беларусі. Больш чым у 3 разы павялічылася колькасць насельніцтва: у 1772 — 3083, у 1785 — 10 501 жыхар. У 1789 у горадзе адчынена некалькі 4- і 2-класных вучылішчаў, у 1794 — 4-класнае рэальнае вучылішча (пераўтворана ў 1808 у *Віцебскую мужчынскую гімназію*), у пач. 19 ст.— жаночае вучылішча, першая на Беларусі свецкая навуч. ўстанова. У Айч. вайну 1812 Напалеон вырашыў навязаць генеральную бітву адступаючым рус. арміям каля В., разбіць на маршы 1-ю Зах. армію (ген. М. Б. Барклай дэ Толі), потым і 2-ю Зах. армію (ген. П. І. Баграціён), якая ішла на злучэнне з першай. Аднак ажыццявіць гэту задуму, т. зв. «манеўр на Віцебск», Напалеону не ўдалося. У выніку бітвы каля вёсак *Астроўна* (за 26 км на З ад В.) і Кукавячына (за 6 км ад Астроўна) франц. войскі былі затрыманы, а асн. сілы 1-й Зах. арміі адышлі ад В. 16(28) ліп. Напалеон заняў В., але знайшоў горад эвакуіраваным, ён прабыў там да 1 жніўня. Моцнае супраціўленне франц. акупантам і шырокі размах партыз. руху на Віцебшчыне прымусілі Напалеона напярэдадні Барадзінскай бітвы накіраваць 10 тыс. салдат на дапамогу 12-тысячнаму гарнізону ў В. У Барадзінскай бітве вызначыўся віцебскі пях. полк, які абараняў т. зв. баграціёнавы флешы. Жорсткія баі на тэр. Віцебшчыны разгарнуліся ў кастр. 1812 у ходзе яе вызвалення рус. войскамі пад камандаваннем ген. П. Х. Вітгенштэйна. В. быў вызвалены 26 кастр. атрадам рус. войск на чале з ген. Гарпе. Войскам актыўна дапамагалі жыхары. Горад быў разрабаваны праціўнікам, часткова разбураны і спалены. Колькасць яго жыхароў значна скарацілася: у пач. 1812 мужч. насельніцтва складала 7808 чал., у 1813 — 2415 чал. У 1825 у горадзе 16,9 тыс. жыхароў, 10 прадпрыемстваў, 135 крам, 6 навуч. устаноў, 24 царквы, 8 корчмаў, 150 шынкоў. У 1826 створана *Беларускае вольнае эканамічнае таварыства*, у 1834 — *Віцебскае таварыства ўрачоў*, адчынена *Віцебская настаўніцкая семінарыя*, з 1838 выдавалася газ. «Витебские губернские ведомости», у 1845 пачаў дзейнічаць гар. тэатр. Віцебскую гімназію скончыў будучы дзекабрыст І. І. *Гарбачэўскі*, у маі — кастр. 1821 у горадзе жыў М. М. Мураўёў, адзін з арганізатараў «Паўночнага таварыства» дзекабрыстаў. У час паўстання 1863—64 у Польшчы, на Беларусі і ў Літве ў Віцебскай губ. фарміраваліся атрады паўстанцаў на чале з О. М. Грабніцкім, Б. Кульчыцкім і інш. Да іх мела намер далучыцца невял. група з чыноўнікаў *і гімназістаў В.*, аднак была арыштавана ўладамі. Горад быў аб'яўлены на ваен. становішчы.

З 2-й пал. 19 ст. сац.-эканам. стан В. характарызуецца развіццём капіталіст. адносін. Расшыралася яго тэрыторыя, умацоўваліся эканам. сувязі з прыбал тыйскімі, рус. і ўкр. гарадамі. У вял. маштабах вялося буд-ва дарог, мастоў, мураваных будынкаў. У 1866 праз В. пра кладзена Рыга-Арлоўская чыгунка, паз ней чыг. лініі звязалі горад з Пецярбур гам, Масквой, Брэстам і Кіевам. У 187 заснаваны чыгуналіцейная (гл. *Віцебск чыгуналіцейна-машынабудаўнічы завод*)

Віцебск з Успенскай гары. 1894.

Мост цераз Заходнюю Дзвіну ў Віцебску. 1894.

і чыг. майстэрні, у 1883 — тытунёва-махорачная, у 1892 — акулярная, у 1898 — папярова-кардонная ф-кі; развіваліся розныя вытворчасці — шчацінная, шкляная, васкабойная, гарбарная, па вырабу карабельных канатаў. У 1897 на 102 фабрычна-заводскіх прадпрыемствах было занята каля 1,5 тыс. рабочых. На 1715 саматужных прадпрыемствах працавала каля 5 тыс. рамеснікаў. Бельгійскае акцыянернае т-ва пабудавала ў В. ў 1898 электрастанцыю і трамвайную лінію (першую на Беларусі) з электрычнай цягай; у цэнтры горада — водаправод. Да буйных акцыянерных прадпрыемстваў належалі льнопрадзільная ф-ка «Дзвіна» (у 1900 — 400 рабочых) рус.-бельгійскага акцыянернага т-ва з капіталам 2 млн. франкаў, піваварны з-д акцыянернага т-ва «Левенбрэй». Адчынілі свае аддзяленні Рыжскі камерцыйны, Рус.-Азіяцкі і Аб'яднаны агульнарасійскі банкі. Паводле перапісу 1897, у В. 65 871 жыхар, каля 2,8 тыс. дамоў, 31 навуч. ўстанова, 3 друкарні, 2 бальніцы на 145 ложкаў. У 1862 адчынены *Віцебскі цэнтральны архіў старажытных актаў*, у 1893 — 1919 дзейнічаў *Віцебскі царкоўна-археалагічны музей*, у 1909 — 19 — гіст.-археал. музей *Віцебскай вучонай архіўнай камісіі*. З 1870 працавала *Віцебская марыінская жаночая гімназія*. У 1906 у губернскай друкарні выдавалася 6 газет і часопісаў.

Развіццё рэв. руху ў В. ў 1870—80-я гады звязана з дзейнасцю разначынцаў-народнікаў. З канца 1870-х гадоў у горадзе пачаў дзейнічаць народніцкі гурток вучнёўскай моладзі (гл. *Віцебскі рэвалюцыйны гурток*), у 1881—83 — гурткі афіцэраў-нарадавольцаў; віцебскія гурткі ўваходзілі ў створаную ў пач. 1882 Паўн.-Зах. арг-цыю «Народнай волі». Да 1892 адносіцца стварэнне *Віцебскіх марксісцкіх гурткоў*. Дзейнічалі *Віцебская рабочая арганізацыя 1896—97*, *Віцебскі сацыял-дэмакратычны камітэт Бунда* (з 1897). У 1897 на шчотачнай ф-цы адбылася адна з першых у горадзе забастовак, у выніку якой рабочы дзень быў скарочаны з 16 да 12 гадзін. З 1899 рабочыя В. штогод адзначалі 1 Мая нелегальнымі сходкамі (маёўкамі). 19—20.6 (1—2.7).1899 у горадзе адбылася паліт. дэманстрацыя (адна з першых у Расіі) у сувязі з забойствам паліцыяй члена рабочага гуртка (гл. *Віцебскія палітычныя выступленні рабочых 1899*), у 1900 — усеагульная першамайская стачка пад лозунгам звяржэння самадзяржаўя і ўстанаўлення дэмакр. рэспублікі. У 1901 у стачачным руху ўдзельнічалі рабочыя тытунёвай, тэкстыльнай ф-к, гарбарнікі. Арыштамі і рэпрэсіямі скончыліся *Віцебскія выступленні рабочых 1901*. 24.11(7.12).1901 у В. прайшла паліт. дэманстрацыя пратэсту (удзельнічала 700 чал.), якая была выклікана адпраўкай паліт. ссыльных у Сібір. У сувязі з масавымі выступленнямі працоўных В. з 1902 знаходзіўся на рэжыме ўзмоцненай аховы. У канцы 1903 створана *Віцебская арганізацыя РСДРП*. У жн. і кастр. 1904 рабочыя горада прынялі актыўны ўдзел у кампаніях пратэсту супраць самавольства і рэпрэсій царскіх улад у адносінах да паліт. ссыльных у Якуцку і расстрэлу мітынгу беластоцкіх рабочых. Працоўныя В. актыўна ўдзельнічалі ў рэвалюцыі 1905—07. У знак пратэсту супраць расстрэлу царскімі войскамі пецярбургскіх рабочых у В. 13(26) — 18(31).1.1905 адбылася студзеньская паліт. стачка, у лют., сак., маі і жн. 1905 — эканам. і паліт. стачкі, у т. л. салідарнасці з рабочымі Масквы, Іванава-Вазнясенска. 9(22) ліп. на Сянной плошчы горада праведзены мітынг (удзельнічала каля 800 чал.) на ўшанаванне памяці загінуўшых таварышаў. 24 жн. (6 вер.) адбылася дэманстрацыя байкоту Булыгінскай думы, што сарвала пасяджэнне віцебскай гар. думы. Сярод салдат гарнізона работу вяла ваен.-рэв. арг-цыя РСДРП, хваляванні салдат у горадзе мелі месца ў вер. і ліст. 1905. Быў утвораны *Віцебскі кааліцыйны камітэт*, які выконваў некаторыя функцыі Савета рабочых дэпутатаў. На прадпрыемствах дзейнічалі забастовачныя саветы і к-ты. Кааліцыйны к-т распаўсюдзіў лістоўку з заклікам да ўсеагульнай забастоўкі. 17(30) кастр. ў час дэманстрацыі працоўных адбылося ўзбр. сутыкненне з паліцыяй. 18(31) кастр. мітынг гараджан быў абстраляны казацкім патрулём — 7 чал. забіта, 4 паранена. У той жа дзень у горадзе прайшла 20-тысячная дэманстрацыя пратэсту, у пахаванні загінуўшых удзельнічала каля 40 тыс. чал. Рабочыя чыг. станцыі і прамысловых прадпрыемстваў В. 8(21) снеж. падтрымалі забастоўкай усеаг. паліт. стачку, якая пачалася ў Маскве ў снеж. 1905; ствараліся рабочыя дружыны. У гады рэвалюцыі ў В. арганізаваны прафсаюзы чыгуначнікаў, будаўнікоў, друкароў, прыказчыкаў і інш. У 1906 паліцыя арыштавала больш за 1 тыс. актыўных удзельнікаў рэв. падзей у горадзе. Аднак барацьба працоўных не спынялася. 30.7(12.8) — 4(17).8.1909 была праведзена забастоўка рабочых ільнопрадзільнай ф-кі «Дзвіна» (удзельнічала больш за 1 тыс. чал.) — адна з буйнейшых на Беларусі, 5(18).1 — 17.2 (2.3). 1914 адбыліся забастоўкі на шчацінай ф-цы і з-дах с.-г. інвентару.

У 1913 у В. 109 тыс. жыхароў. Горад стаў адным з найбуйнейшых прамысловых цэнтраў: дзейнічала 45 ф-к і з-даў, на 6 з іх было занята па 100 і больш рабочых; на ф-цы «Дзвіна» — 1,2 тыс., да канца 1914 — 1,7 тыс. рабочых. Усяго ў прамысловасці горада працавала каля 8 тыс. чал., з іх 40 % у тэкстыльнай і каля 20 % у металаапрацоўчай галінах. У 1910 адчынены *Віцебскі настаўніцкі інстытут*, у 1911 — *Віцебскае аддзяленне Маскоўскага археалагічнага інстытута*; з публічнымі лекцыямі выступалі члены асв. т-ва *«Адукацыя»*, якое аб'ядноўвала каля 1,3 тыс. чал.

З пач. 1-й сусв. вайны Віцебская губ. была аб'яўлена на ваен. становішчы, з восені 1915 В. стаў прыфрантавым горадам, куды перамясціўся штаб *Дзвінскай ваеннай акругі*, ваен. ўстановы, шпіталі, гарнізон горада ў 1916 налічваў 40 тыс. ваеннаслужачых. Прадпрыемствы пераводзіліся на выпуск ваен. прадукцыі, ствараліся новыя прадпрыемствы і майстэрні для абслугоўвання патрэб фронту. Вайна дала падставу ўладам узмацніць рэпрэсіі: прафсаюзы і інш. грамадскія арг-цыі былі забаронены, а члены і ўдзельнікі іх арыштоўваліся. Адбыліся *Віцебскія забастоўкі 1916*. Колькасць рабочых на прадпрыемствах да сак. 1917 дасягнула 18 тыс. чал. З 1916 у В. асела шмат бежанцаў з акупаваных герм. войскамі раенаў Прыбалтыкі. У лют.— ліп. 1917 у горадзе дзейнічала *Віцебская латышская раённая арганізацыя РСДРП*. Пра звяржэнне царызму і адрачэнне імператара Мікалая II ад прастола ў выніку Лют. рэвалюцыі 1917 у В. стала вядома ў пач. сакавіка. Паліт. жыццё ў горадзе актывізавалася. Каля 20 розных партый і рухаў уклю-

Гасцініца Бразі ў Віцебску. Паштоўка пачатку 20 ст.

чыліся ў барацьбу за ўладу і ўплыў на насельніцтва горада і губерні. Былі сфарміраваны мясц. органы Часовага ўрада, створаны *Віцебскі грамадскі камітэт.* На правым флангу паліт. жыцця вылучалася Партыя нар. свабоды (гл. *Кадэты*), якая падтрымлівала стварэнне Віцебскага гар. грамадскага к-та. Разам з кадэтамі дзейнічалі *Беларускі народны саюз* і Клуб рэспубліканцаў, арганізаваны М. Н Гілярыбавым. Аднак найб ўплыў на насельніцтва горада і губерні мелі Віцебская аб'яднаная арг-цыя РСДРП, эсэры, Яўр сацыяліст рабочая партыя (ЯСРП), Бунд, Бел. сацыяліст. грамада (БСГ), Працоўная нар.-сацыяліст. партыя («трудавікі»), Польская сацыяліст партыя (ППС) і інш. 8(21) сак. на ўстаноўчым сходзе прадстаўнікоў прадпрыемстваў і ўстаноў горада (300 дэпутатаў) абраны Віцебскі Савет рабочых дэпутатаў (старшыня бундавец Р. Аронсан). 19 сак. (1 крас.) пачаў дзейнічаць Віцебскі Савет салдацкіх дэпутатаў (старшыня меншавік Я Тарле) 20 сак. (2 крас.) абодва Саветы аб'ядналіся ў *Віцебскі Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў.* 27 жн. (9 вер.) на выбарах у гар. думу перамог сацыяліст. блок (РСДРП, Бунд, «трудавікі», Партыя сацыялістаў-рэвалюцыянераў). 2(15) ліп бальшавікі выйшлі з Віцебскага аб'яднанага к-та РСДРП і стварылі гар парт. к-т РСДРП(б) у складзе 9 чал. 1—3(14—16) кастр. ў В. прайшла іх 1-я губ. парт канферэнцыя Віцебскія бальшавікі былі настроены рашуча і рыхтаваліся да захопу ўлады Вестка пра Кастр. пераварот 1917 у Петраградзе была атрымана ў В. вечарам 25.10(7.11). 1917. 27 кастр. (9 ліст.) утвораны Віцебскі ваенна-рэв. к-т (ВРК), які ўзяў усю ўладу ў горадзе ў свае рукі. Начальнік віцебскага гарнізона быў вызвалены ад пасады, а яго месца заняў член Віцебскага губкома РСДРП(б) паручнік С. Крылоў. Ноччу атрад на чале з Крыловым захапіў пошту, тэлеграф, чыг станцыю, штаб Дзвінскай ваен акругі, будынак афіцэрскага сходу, масты. 29 кастр. (11 ліст) выйшаў 1-ы нумар бальшавіцкай газ. «Известия военно-революционного комитета города Витебска» (гл. *«Віцебскі рабочы»*). Тады ж у В. пачалося раззбраенне каля 20 тыс салдат і афіцэраў, якія накіроўваліся ў Гатчыну на дапамогу ген Краснову Віцебскі ВРК накіраваў у Магілеў чырвонагвардзейскі дывізіен для ліквідацыі Стаўкі. 11(24) ліст новавыбраны Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў утварыў выканком; ранейшы Савет быў распушчаны. На выбарах ва Устаноўчы сход у ліст. 1917 за бальшавікоў у В. прагаласавала 34,4 % прыняўшых удзел. Істотны ўплыў на вынікі выбараў зрабіў 40-тысячны віцебскі гарнізон, які аддаў бальшавікам 68,9 % галасоў 28 ліст (11 снеж.) адбылося ўрачыстае пасяджэнне гар. думы ў падтрымку Устаноўчага сходу, на якім выступілі прадстаўнікі ўсіх паліт. партый, акрамя бальшавікоў. 4—5(17—18) 1.1918 у В. прайшлі дэманстрацыі ў падтрымку Устаноўчага сходу, але яны былі разагнаны сав. уладамі. Горад быў аб'яўлены на ваен. становішчы, дума распушчана, апазіц. партыі і рухі падпалі пад рэпрэсіі. Пачалося ўстанаўленне аднапарт. дыктатуры бальшавікоў. Супраць утварэння БССР рашуча выступіў Віцебскі губком РКП(б), які не жадаў самастойнасці Беларусі нават у межах сав. улады. З 2.2.1919 В у складзе РСФСР. Вясной 1919 на тэр Беларусі ўварваліся польскія войскі, у крас. яны захапілі зах. частку Віцебшчыны. У сувязі з акупацыяй польскімі войскамі часткі Віцебскай губ 22.8.1919 уведзена ваен. становішча ў горадзе 6 кастр загадам Рэўваенсавета Зах. фронту створаны Віцебскі губрэўком, які сканцэнтраваў усю ўладу ў горадзе і губерні (скасаваны ў канцы 1920).

У першыя пасляваен. гады прамысловасць і сельская гаспадарка Віцебшчыны былі ў заняпадзе. З-за недахопу паліва, сыравіны, тэхн. сродкаў многія ф-кі і з-ды прастойвалі. Тыя, што дзейнічалі, выпусцілі толькі 1/3 частку прадукцыі да ўзроўню 1917. Новая эканам. палітыка (нэп), паварот бальшавікоў да больш жыццяздольных метадаў кіравання нар. гаспадаркай, розных форм уласнасці ў горадзе і весцы актывізавалі гасп. жыцце. У 1920-я гады В. ператварыўся ў буйны прамысл. і культурны цэнтр рэспублікі Да канца 1925 у В. ўведзены ў дзеянне з-ды машынабудаўнічы «Чырвоны металіст», металаапрацоўчы імя Камінтэрна, гарбарны, абутковая ф-ка і інш прадпрыемствы. У 1927 у горадзе працавала 36 прадпрыемстваў цэнзавай прам-сці (7036 рабочых), у т. л. буйнейшыя ф-кі — ільнопрадзільная «Дзвіна» (1813 рабочых), швейная «Прафінтэрн» (758), панчошная імя К. Цэткін (406), з-д «Чырвоны металіст» (906). У 1928—33 пабудаваны ф-кі — швейная «Сцяг індустрыялізацыі» (адна з 518 буйнейшых новабудоўляў СССР), панчошна-трыкатажная імя КІМ, кардонная, шчацінна-шчотачны камбінат, элеватар, заводы — маслабойны, 2 цагельныя, кафляны, вапнавы. Наладжвалася культ. жыццё. Яшчэ ў 1918 быў створаны адзін з першых на Беларусі сімфанічны аркестр і нар кансерваторыя. Былі адкрыты нар. маст школа, пед. ін-т, муз. вучылішча, заснаваны Віцебскі губ музей, у чэрв 1919 — краязнаўчы музей У 1918 мастакі Ю Пэн і М Шагал арганізавалі ў В. вышэйшыя маст. майстэрні. У 1920 у горадзе працавалі 25 школ і 15 бібліятэк. У 1921 у В. заснаваны вышэйшы с.-г. тэхнікум (у 1924 пераўтвораны ў вет. ін-т), адкрыты пед. тэхнікум (з 1937 — пед. вучылішча), у 1923 — маст. вучылішча. У 1922—24 тут працавалі *Віцебскі гістпарт*, першы юнацкі губ. ўзорны тэатр. 3.3.1924 В. вернуты БССР, стаў цэнтрам *Віцебскага раена* і *Віцебскай акругі*, з 15.1.1938 — цэнтр *Віцебскай вобласці*; з 27.9.1938 — горад абл падпарадкавання. У 1923 у В 90 918 жыхароў, у 1926—98 808, сярод іх 29,5 % беларусаў, 26,0 рускіх, 37,5 яўрэяў, 3,7 палякаў, 1,2 латышоў, 0,4 літоўцаў, 0,4 украінцаў, 1,3 % астатніх; па Віцебскай акр адпаведна 77,9 %, 9,2, 9,2, 1,7, 1,1, 0,2, 0,1, 0,5 % У 1924 — 28 у В. дзейнічала гар. філія літ. аб'яднання «Маладняк», у 1924—32 — *Віцебскае акруговае таварыства краязнаўства*, у 1926 адкрыўся 2-і Бел. драм. тэатр (гл. *Беларускі тэатр імя Я Коласа*). У 1930-я гады на Віцебшчыне разгарнулася фарсіраванне сацыяліст будаўніцтва ў прамысловасці і сельскай гаспадарцы Адмова ад нэпа, пераход ад эканам. метадаў гаспадарання да каманднa-адміністрацыйных не дазволілі краіне і рэспубліцы выканаць заданні 1-й пяцігодкі (1928—32) План

Віцебск. Пачатак 20 ст

1932 у рэсп. прам-сці быў выкананы горадам на 84,8 %, у мясцовай — на 68,4 %. З 29 прадпрыемстваў В. справіліся з планам толькі 4 (металічны з-д «Камінтэрн», фанерны, піваварны і хлебазавод). Хваля масавых паліт. рэпрэсій, якая пракацілася і па Віцебшчыне, адабрала жыцці ў тысяч яе жыхароў.

За 1930-я гады В. ператварыўся ў буйны прамысл цэнтр рэспублікі У 1933 за кошт міграцыі з вёскі насельніцтва горада склала 125 294 чал., колькасць рабочых — амаль 17 тысяч У 1938 тут выпускалася 28 % прамысл прадукцыі, працавала 30 % прамысл рабочых Беларусі, дзейнічала 209 прадпрыемстваў (разам з арцелямі), на якіх была занята 31 тыс рабочых У 1940 насельніцтва В склала 180 тыс чал. Тут працавалі 4 ВНУ, 15 сярэдніх спец. навуч. устаноў, 43 агульнаадук школы, 2 н.-д установы, 53 дзіцячыя сады, 29 ясляў, 40 бібліятэк, 3 кінатэатры, цырк, драм. тэатр, архіў, 19 дамоў культуры і клубаў, 4 музеі, 10 бальніц, 11 амбулаторый і палiклінік.

У Вял Айч. вайну 11.7 1941 В акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Для абароны горада ў першыя дні вайны былі сфарміраваны *Віцебскае народнае апалчэнне 1941,* дружыны мясц процілаветранай абароны, ствараліся абарончыя рубяжы У выніку *Віцебска абароны 1941* ворагу былі нанесены значныя страты у жывой сіле і тэхніцы. За перыяд акупацыі гітлераўцы стварылі ў В 5 лагераў смерці. Толькі за першыя 3 месяцы яны загубілі ў горадзе больш за 20 тыс. чал., за ўвесь час акупацыі ў горадзе і ваколіцах — 76 тыс. ваеннапалонных і каля 62 тыс мірных грамадзян. На Віцебшчыне загінуў кожны трэці жыхар Былі знішчаны ўсе прадпрыемствы і культ.-асв ўстановы, чыг збудаванні, масты, камунальная гаспадарка, 93 % жыллёвага фонду. Акупанты амаль поўнасцю вывезлі *Дзяржаўны архіў Віцебскай вобласці* і яго б-ку (усяго 23 вагоны), экспанаты *Віцебскага абласнога краязнаўчага музея* і яго б-ку (5 тыс тамоў кніг і экспанаты былі адпраўлены ў Рыгу). З першых дзён акупацыі віцябляне ўзняліся на барацьбу з ворагам. Дзейнічалі *Віцебскае патрыятычнае падполле,* Віцебскія падп. абкомы КП(б)Б і ЛКСМБ (гл адпаведныя арт ), Віцебскія падп гаркомы КП(б)Б і ЛКСМБ. 26.6.1944 горад вызвалены войскамі 1-га Прыбалт і 3-га Бел. франтоў у выніку *Віцебска-Аршанскай аперацыі 1944*. У віцебскім «катле» было разгромлена 5 дывізій праціўніка 62 вайсковыя злучэнні і часці, што вызначыліся ў аперацыі, атрымалі ганаровае найменне «Віцебскіх».

За пасляваенныя гады В. нанава адбудаваны У канцы 1980-х гадоў прамысл. прадукцыя В. была вядома больш чым у 80 краінах свету. На 1.1 1992 у горадзе 4 ВНУ — педагагічны, медыцынскі, ветэрынарны, тэхналагічны лёгкай прамысловасці, вячэрні агульнатэхнічны ф-т Бел. політэхн. акадэміі, індустрыяльны, політэхнічны, станкаінструментальны, тэхналагічны, індустрыяльна-пед тэхнікумы і электратэхнікум сувязі, музычнае, медыцынскае, культ -асв. вучылішчы, 11 ПТВ, 44 агульнаадук. школы. У горадзе 120 дашкольных устаноў, 17 бальніц, 8 дыспансераў, 44 паліклінікі, 21 аптэка, батанічны сад Дзейнічаюць Бел дзярж драм тэатр імя Я. Коласа, амфітэатр, лялечны тэатр, 9 кінатэатраў, 30 клубных устаноў, 5 палацаў культуры, 155 бібліятэк, Віцебскі абл. краязнаўчы музей, музей гісторыі віцебскага трамвая і інш. Працуюць абл. радыевяшчанне і тэлебачанне, выдаюцца газ. «Віцебскі рабочы» (абласная), «Народнае слова» (орган абл. Савета нар. дэпутатаў), «Віцьбічы» (орган гар Савета нар. дэпутатаў), «Жыццё *Прыдзвіння»* (раённая), «Выбар» (орган дэмакр. плыняў прыдзвінска-прыдняпроўскага краю), штотыднёвік «Витебский курьер». Дзейнічаюць абл. аддзяленні Саюзаў пісьменнікаў, архітэктараў, журналістаў Беларусі, абл. арг-цыя Саюза мастакоў Беларусі. З канца 1980-х гадоў у В. створаны і дзейнічаюць шматлікія грамадскія арг-цыі, паліт партыі і рухі, у т. л. «Узгор'е», гар філіі Бел. нар фронту, Бел. сацыял-дэмакр грамады, гар арг-цыі Аб'яднанай дэмакр. партыі Беларусі, Партыі камуністаў Беларусі, «зяленых», Т-ва бел. мовы, Віцебскі гар. клуб выбаршчыкаў «За дэмакратычныя выбары» і інш. У горадзе брацкія магілы падпольшчыкаў, сав воінаў, сав воінаў і партызан, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, магіла ахвяр фашызму, вайсковыя могілкі. Помнікі героям Айч. вайны 1812, на месцы лагера смерці ў Вял Айч. вайну і месцы загубы падпольшчыкаў, мемарыяльны комплекс у гонар сав. воінаў-вызваліцеляў, партызан і падпольшчыкаў Віцебшчыны, У. І. Леніну, П. М. Машэраву, В З. Харужай, М. П. Шмырову і інш Помнікі архітэктуры Віцебская царква Звеставання (12 ст.), ратуша (16—18 ст.), Базыльянскі і Трынітарскі манастыры, Варварынскі касцёл (усе 18 ст.), Казанская царква (1760), Успенская адзінаверніцкая царква (канец 18 — пач. 19 ст.). Створана гіст.-арх зона як помнік горадабудаўніцтва 16—18 ст, ахоплівае фрагменты забудовы вуліц, жылыя дамы, будынкі грамадскіх устаноў 18 — пач. 20 ст, якія з'яўляюцца помнікамі гісторыі і архітэктуры.

*Літ* Сапунов А П Витебская старина Т 1, 4, 5 Витебск, 1883—88, Його ж Река Западная Двина Ист -геогр обзор Витебск, 1893, Алексеев Л В Полоцкая земля в IX — XIII вв (Очерки истории Северной Белоруссии) М, 1966, Його ж К истории и топографии древнейшего Витебска // Сов археология 1964 № 1, Мальцев А Н Россия и Белоруссия в середине XVII века М, 1974, Полное собрание русских летописей М, 1975 Т 32 С 45—84, Левко О Н Витебск XIV—XVIII вв (Стратиграфия, хронология, социально-ист топография и технология производств) Мн, 1984, Дроченина Н Н, Рыбаков Б А Берестяная грамота из Витебска // Сов археология 1960 № 1, Ткачев М А Раскопки в Витебске // Археологические открытия 1977 г М, 1978, Чарияўская Т І Архітэктура Віцебска З гісторыі планіроўкі і забудовы горада Мн, 1980, Цішкін І Віслыя пячаткі // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі 1986 № 4, Ткачев М А, Колединский Л В, Бубенько Т С Средневековый Витебск // Тр V Междунар конгр славянской археологии М, 1987 Т 3, вып 1б, Геннина Д Н Витебск в десяти веках Библиогр указ лит Витебск, 1975, Витебск Энцикл справ Мн, 1988

*Л У Калядзінскі, М А Ткачоў* (да 1772), *В А Космач, В А Сяргеева* (1917—92)

**ВІЦЕБСКА АБАРО́НА 1941** у Вялікую Айчынную вайну Вялася злучэннямі 22-й (ген.-лейт П. А. Ершакоў), 20-й (ген.-лейт. П. А *Курачкін*), 19-й (ген.-лейт. І. С. Конеў) армій Зах. фронту і апалчэнцамі Віцебска 5—11 ліпеня. Каб стрымаць ворага на Віцебскім напрамку, 5-ы (ген -маер І П Аляксеенка) і 7-ы (ген -маер В. І Вінаградаў) механізаваныя карпусы 20-й арміі 6 ліп. нанеслі контрудар у напрамку Сянно — Лепель па 3-й танкавай групе ворага (гл. *Лепельскі контрудар 1941)* 153-я стралк дывізія (палк М. А *Гаген*) з 5 ліп. вяла баі на рубяжы в. Гняздзілавічы — усх. бераг воз. Саро — вёскі Ліпна — Парнева — Машканы — Александрова. За дзень дывізія адбівала па 5—6 атак ворага і сама пераходзіла ў наступленне. 6—9 ліп. вораг беспаспяхова атакаваў пазіцыі дывізіі, пасля перанёс дзеянні на Пн і ПнЗ і ў абход прарваўся да Віцебска (9 ліп.) Разам з сав. войскамі горад абаранялі батальёны нар апалчэння (гл *Віцебскае народнае апалчэнне 1941)* 10 ліп 220-я матастралк. дывізія 19-й арміі двойчы выбівала праціўніка з усх. часткі горада Выкарыстаўшы перавагу ў сілах, ням-фаш. войскі 11 ліп. захапілі Віцебск В. а. затрымала прасоўванне ворага на У, прычыніла яму значныя страты

*Літ* История второй мировой войны, 1939—1945 Т 4 М 1975, Андрющенко Н К На земле Белоруссии летом 1941 года Мн, 1985

*М К Андрушчанка*

**ВІ́ЦЕБСКА-АРША́НСКАЯ АПЕРА́ЦЫЯ 1944,** наступальная аперацыя войск 1-га Прыбалтыйскага (камандуючы ген. арміі І. Х. *Баграмян*) і 3-га Бел. (ген.-палк, з 26.6 1944 ген. арміі І Д. *Чарняхоўскі)* франтоў 23—28 чэрв., састаўная частка *Беларускай аперацыі 1944.* Мэта разгром левага крыла (3-я танк. і 4-я палявая арміі) ням.-фаш. групы армій «Цэнтр» (ген.-фельдмаршал Э Буш)

Удзельнічалі арміі: 6-я гв. (ген.-лейт І М. *Чысцякоў*), 43-я (ген -лейт. А. П. *Белабародаў*), 39-я (ген -лейт І І. *Люднікаў*), 5-я (ген -лейт М І *Крылоў*), 11-я гв (ген.-лейт. К. М. *Галіцкі*), 31-я (ген.-лейт В. В. *Глаголеў*), 5-я гв танк. (маршал бранятанкавых войск П. А. *Ротмістраў*), 1-ы танк. корпус (ген.-лейт В. В. Буткоў). Дзеянні сухапутных войск падтрымлівалі 3-я (ген.-лейт. М. П. Папівін) і 1-я (ген.-лейт М. М. Громаў) паветр. арміі Каардынаваў дзеянні франтоў Маршал Сав. Саюза А М. *Васілеўскі* Войскам ставілася задача разграміць групоўкі праціўніка віцебска-лепельскую і авалодаць раенам Лепель — Чашнікі, віцебскую і вызваліць Віцебск, аршанскую — вызваліць Оршу і выйсці

да р. Бярэзіна. Нямецкае камандаванне надавала выключнае значэнне абароне віцебска-аршанскага раёна. Тут быў створаны магутны абарончы рубеж глыбінёю 20—45 км пад умоўнай назвай «Пантэра» з выкарыстаннем лясіста-балоцістай мясцовасці і шматлікіх рэк з шырокімі забалочанымі поймамі; у вузлы абароны былі ператвораны Віцебск, Орша, інш. населеныя пункты.

Раніцай 23 чэрв. пасля артыл. падрыхтоўкі пачалося наступленне. Войскі 6-й гв. і 43-й армій 1-га Прыбалтыйскага фронту прарвалі абарону праціўніка на ПнЗ ад Віцебска, 23 чэрв. вызвалілі Шуміліна, 24 чэрв. каля Бешанковіч фарсіравалі Зах. Дзвіну, стварылі на левым яе беразе некалькі плацдармаў і, расшыраючы іх, 25 чэрв. вызвалілі Бешанковічы. Войскі 39-й і 5-й армій 3-га Бел. фронту прарвалі абарону на ПдУ ад Віцебска. У ноч на 25 чэрв. войскі сумежных 43-й і 39-й армій злучыліся каля в. Гняздзілавічы (Гняздзілава), утвараючы т. зв. *віцебскі «кацёл»*, у які трапіла 5 дывізій 3-й ням. танк. арміі; да 27 чэрв. яны былі разгромлены. 26 чэрв. вызвалены Віцебск. Адначасова войскі левага крыла 3-га Бел. фронту (11-я гв. і 31-я арміі), пераадольваючы ўпартае супраціўленне ворага на аршанскім напрамку, у ходзе наступлення 26 чэрв. вызвалілі Дуброўна. У паласе дзеянняў 5-й арміі ў прарыў фронту праціўніка былі ўведзены конна-механізаваная група (ген.-лейт. М. С. *Аслікоўскі*) у раёне Багушэўска (25 чэрв. вызвалены Багушэўск і Сянно) і 5-я гв. танк. армія, у раёне в. Клюкаўка — 2-і гв. танк. корпус (ген.-маёр А. С. *Бурдзейны*). 26 чэрв. 5-я гв. танк. армія і 2-і гв. танк. корпус перарэзалі чыг. і шашу Масква—Мінск у раёне Пагост — Талачын (26 чэрв. вызвалены Талачын), чым стварылі пагрозу акружэння аршанскай групоўкі праціўніка, 27 чэрв. 11-я гв. і 31-я арміі вызвалілі Оршу. Працягваючы наступленне, сав. войскі 27 чэрв. вызвалілі Чашнікі. Да 28 чэрв. войскі 1-га Прыбалт. фронту выйшлі на рубеж за 30 км на ПдУ ад лініі Полацк—Лепель (28 чэрв. вызвалілі Лепель). Войскі 3-га Бел. фронту выйшлі на р. Бярэзіна на Пн ад Барысава. У выніку аперацыі сав. войскі прасунуліся на 80—150 км, стварылі ўмовы для паспяховага наступлення ў напрамках на Мінск і на тэр. Прыбалтыкі. У аперацыі ўдзельнічалі некалькі партыз. брыгад. 62 злучэнням і часцям, якія вызначаліся ў аперацыі, прысвоены ганаровыя найменні «Віцебскіх», 11 — «Аршанскіх».

*Літ.:* Освобождение Белоруссии, 1944. 2 изд. М., 1974. *У. І. Вышынскі.*

**ВІЦЕБСКАЕ АДДЗЯЛЕ́ННЕ МАСКО́ЎСКАГА АРХЕАЛАГІ́ЧНАГА ІНСТЫТУ́ТА,** навучальная ўстанова, якая існавала ў 1911—22 у Віцебску. Адкрыта па ініцыятыве *Віцебскай вучонай архіўнай камісіі*. Мела ф-ты: археалагічны, археаграфічны, гісторыі мастацтва (з 1917). Тэрмін навучання 3 гады, з 1917 — 4 гады, разлічаны на слухачоў з вышэйшай адукацыяй, але сярод іх пераважалі выпускнікі сярэдніх школ. У 1911 на 1-ы курс прынята каля 90 чал., у 1918/19 навуч. годзе вучылася 428 чал. Выкладалі археолаг В. А. Гарадцоў, мастацтвазнавец А. І. Успенскі, гісторыкі Б. Р. *Брэжга* (з 1918 заг. аддзялення), А. П. *Сапуноў* (курс «Старажытнасці Паўночна-Заходняга краю»), У. М. *Перцаў*, этнограф У. М. *Дабравольскі*, філолагі Р. Ф. Брант, М. І. Навасадскі, С. І. Сабалеўскі і інш. У пач. 1919 аддзяленню перададзены б-ка (3700 тамоў), музей і гіст. архіў (314 спраў) б. Віцебскай вучонай архіўнай камісіі, частка б-кі (2 тыс. тамоў) б. Віцебскай езуіцкай калегіі. У распараджэнні аддзялення быў Віцебскі губ. архіў (1,5 млн. спраў). У 1922 аддзяленне выдавала рукапісны час. «Белорусский этнограф» (выйшлі 2 нумары).

*Літ.:* Шибеко З. Из истории Витебских археологических «курсов» // Нёман. 1980. № 6. *З. В. Шыбека.*

**ВІЦЕБСКАЕ АКРУГО́ВАЕ ТАВАРЫ́СТВА КРАЯЗНА́ЎСТВА.** Існавала ў 1924—32. Мела на мэце вывучэнне і папулярызацыю ведаў па гісторыі, культуры, прыродзе і эканоміцы краю. Складалася з секцый: культурна-гіст., мастацкай, мовы і побыту, прыродазнаўчай, эканам., яўрэйскай; спец. камісія рыхтавала бібліяграфію і біябібліяграфічны слоўнік дзеячаў Віцебшчыны. Мела раённыя аддзяленні ў Бешанковічах, Высачанах, Гарадку, Езярышчы, Лёзне, Сіроціне, Сянне, Суражы, Чашніках. У многіх населеных пунктах працавалі краязнаўчыя гурткі. Т-ва арганізоўвала лекцыі, экскурсіі, канферэнцыі, экспедыцыі па збіранні і вывучэнні бел. народнага мастацтва і фальклору, стварала музеі, у 1925 правяло вечары бел. песні, памяці А. П. Сапунова. Адзін са стваральнікаў і першы старшыня праўлення М. І. *Каспяровіч*. Членамі т-ва былі: краязнаўцы М. *Багародскі*, А. *Брадоўскі*, У. *Краснянскі;* архівіст Б. *Брэжга*; мастакі З. Гарбавец, Я. Мінін, Ю. *Пэн*, М. Эндэ; скульптары З. *Азгур* і М. Керзін; арх. Т. Кібардзін; мастацтвазнаўцы І. Фурман і І. Гаўрыс; кампазітары М. Анцаў і А. Поснікаў; энтамолагі У. Плюшчэўскі-Плюшчык і А. Радкевіч; батанікі У. Адамаў, Л. Нікольскі і інш. Т-ва выдала больш за 10 кніг і брашур, у т. л. «Беларуская архітэктура» Каспяровіча, «Новая беларуская літаратура» А. Багдановіча, «Крашаніна» Фурмана, «Гравюры на дрэве» Гарбаўца, зб-кі *«Віцебшчына»* (т. 1—2, 1925—28). Пераемнікам т-ва стала Віцебскае гар. бюро краязнаўства.

*А. М. Падліпскі.*

**ВІЦЕБСКАЕ ВАЯВО́ДСТВА.** Існавала ў ВКЛ у 16—18 ст. Першапачаткова ахоплівала, верагодна, тэр. *Віцебскай зямлі*, намеснікі якой з 1503 пачынаюць карыстацца тытулам *ваяводы*. Пытанні пра тое, у якой ступені гэта суправаджалася пашырэннем іх паўнамоцтваў і ці ўплывала на ўзаемаадносіны ваяводы з інш. намеснікамі паветаў Віцебскай зямлі (Аболецкім, Аршанскім, магчыма, Магілёўскім), а таксама ўладальнікамі *Друцкага княства* дастаткова не вывучаны. Ваявода ажыццяўляў ваен. кіраўніцтва ў межах Віцебскай зямлі, а судовыя функцыі і кантроль за крыніцамі дзярж. даходаў, верагодна,— у межах *Віцебскага павета*. Па-за юрысдыкцыяй ваяводы знаходзіліся таксама княжацкія і панскія маёнткі, уладальнікі якіх падлягалі *велікакняжацкаму суду*, а адносна сваіх падданых карысталіся імунітэтам. Паводле велікакняжацкіх прывілеяў, ваяводы ў В. в. (як і ў Полацкім) прызначаліся толькі са згоды мясц. шляхты. Пасля адм.-тэр. рэформы 1565—66 В. в. складалася з Віцебскага і Аршанскага паветаў, уведзены пав. соймікі і іерархія службовых пасад паводле польскага ўзору: кашталян, падкаморы, суддзя земскі з падсудкам і пісарам, суддзя гродскі з пісарам і інш. Была ўстаноўлена харугва В. в.— зялёнага колеру з выявай «Пагоні» ў белым полі. Функцыі ваяводы звяліся да кіравання шляхецкім апалчэннем ваяводства. Адначасова ён узначальваў *замкавы*

суд Віцебскага пав., з 1569 засядаў у сенаце Рэчы Паспалітай. Намеснікам, які меў тытул ваяводы віцебскага, быў Ю. Глябовіч (1503—08), затым І. С. Сапега (1508—14), Я. С. Касцевіч (1514—17), І. Б. Сапега (1520—28, зняты з пасады паводле патрабавання мясц. шляхты), Я. Ю. Глябовіч (1529—32), М. В. Клочко (1532—42), Ю. В. Насілоўскі (1542—44), С. П. Кішка (1545—54), Р. А. Ходкевіч (1554—55), кн. С. А. Збаражскі (1555—64), С. М. Пац (1565—88), М. П. Сапега (1588—99), Я. Я. Завіша (1599—1626), кн. Ш. С. Сангушка (1626—38), Я. Ракоўскі (1638—39), К. Кішка (1639—46), П. Я. Сапега (1646—56), У. В. Валовіч (1656—68), Я. А. Храпавіцкі (1669—83), Л. Пацей (1686—95), А. Крышпін-Кіркенштэйн (1695—1704), К. А. Пацей (1705—28), кн. М. М. Агінскі (1730—50), Ю. А. Салагуб (1752—81). Пры апошнім большасць В. в. (акрамя зах. часткі Аршанскага пав.) у 1772 адышла да Расійскай імперыі. Аднак пасада віцебскага ваяводы захоўвалася ў ВКЛ да 1794. Апошнімі яе займалі Ю. А. Прозар (1781—89) і М. Касакоўскі (1789—94).

*Літ.:* Любавский М. К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского статута [М., 1892]; Wolff J. Senatorowie i dygnitarze Wielkiego Księstwa Litewskiego 1386—1795. Kraków, 1885.

*В. Л. Насевіч*

**ВІЦЕБСКАЕ КНЯСТВА,** феадальнае княства, якое вылучылася з *Полацкага княства* пасля смерці кн. *Усяслава Брачыславіча* (1101). Цэнтр — г. *Віцебск*. У 1130—40-я гады княства, верагодна, належала полацкаму кн. Васільку Святаславічу, потым полацкім князям Васількавічам, з 1165 — *Давыду Расціславічу,* які ў 1167 разам з полацкім кн. Усяславам Васількавічам вытрымаў аблогу мінскага кн. Валадара Глебавіча. У 1170-я гады княства належала Усяславу Васількавічу, які парушыў узаемаадносіны са Смаленскам. У пач. 1180-х гадоў княства належала *Брачыславу Васількавічу*, які зблізіўся з Чарнігавам і Ноўгарадам, і выйшла з-пад уплыву Смаленска. З 1186 В. к. зноў пад уплывам Смаленска, што выклікала незадаволенасць полацкіх і чарнігаўскіх князёў, якія ў 1195 выступілі супраць смаленскіх князёў, у выніку чаго Віцебск трапіў пад уладу Полацка. У пач. 13 ст. назіраецца збліжэнне В. к. з Уладзіміра-Суздальскім княствам. У 1220—30-я гады В. к. падпарадкоўвалася полацкаму кн. *Брачыславу,* у 1229, верагодна, знаходзілася пад палітычным уплывам Смаленска, князь якога Мсціслаў падпісаў пагадненне з Рыгай ад імя полацкага і віцебскага князёў. У 1262 віцебскі кн. Канстанцін з наўгародцамі ўдзельнічаў у паходзе на Юр'еў. У 1263—65 княства залежала ад полацкіх князёў Гердзеня, потым Ізяслава, які ў сваю чаргу быў васалам навагародскага кн. Войшалка. У 1280 Віцебск упамінаецца ў грамаце смаленскага кн. Федара Расціславіча як залежная ад яго тэрыторыя. У канцы 13 — пач. 14 ст. тут княжыў *Міхаіл Канстанцінавіч,* каля 1318 — Яраслаў. Пасля смерці Яраслава (1320) віцебскім князем стаў яго зяць *Альгерд,* пасля смерці апошняга з 1377 В. к. належала яго ўдаве Ульяне. Пасля смерці Ульяны (каля 1393) вял. кн. літоўскі Вітаўт скасаваў В. к. і накіраваў у Віцебск намесніка Федара Вясну. Але малодшы сын Альгерда *Свідрыгайла* з мэтай аднавіць княжанне ўзняў мяцеж, які падтрымалі Орша і Друцк. Мяцеж быў задушаны, а В. к. ператворана ў намесніцтва. У 1508 на тэр. В. к. ўтворана *Віцебскае ваяводства.*

*Літ.:* Даннлевич В. Е. Очерк истории Полоцкой земли до конца XIV столетия. Киев, 1896; Алексеев Л. В. Полоцкая земля в IX—XIII вв. (Очерки истории Северной Белоруссии). М., 1966; Его ж. Полоцкая земля // Древнерусские княжества X—XIII вв. М., 1975; Ермаловіч М. Старажытная Беларусь: Полацкі і навагародскі перыяды. Мн., 1990.

*Л. У. Калядзінскі*

**ВІЦЕБСКАЕ, МАГІЛЁЎСКАЕ І СМАЛЕНСКАЕ ГЕНЕРАЛ-ГУБЕРНАТАРСТВА,** гл. *Беларускае генерал-губернатарства.*

**ВІЦЕБСКАЕ НАРОДНАЕ АПАЛЧЭННЕ 1941.** Сфарміравана 5—6.7.1941 у Вял. Айч. вайну паводле рашэння Віцебскага абкома КП(б)Б у адпаведнасці з дырэктывай ЦК КП(б)Б і СНК БССР ад 30.6.1941. Складалася з 4 батальёнаў: Асаавіяхіма, Кастрычніцкага, Першамайскага, Чыгуначнага, налічвала 2 тыс. чал. Апалчэнцы разам з войскамі Чырв. Арміі 9—11 ліп. абаранялі Віцебск. Батальён нар. апалчэння Першамайскага р-на (камандзір А. А. Манахаў) уступіў у бой 8 ліп. Першая рота батальёна 9 ліп. разам з воінамі 153-й стралк. дывізіі вяла бой у цэнтры горада, утрымлівала ўчастак на левым беразе Зах. Дзвіны, адбівала неаднаразовыя спробы гітлераўцаў пераправіцца цераз раку. Батальён нар. апалчэння Чыгуначнага р-на [900 чал.— рабочыя станкабудаўнічых з-даў, чыгуначнага вузла, студэнты і выкладчыкі, служачыя; камандзір — сакратар Чыгуначнага РК КП(б)Б Віцебска Б. К. Сяменаў] вёў абарончыя баі ў раёне воз. Лосвіда, у напрамку Суражскай шашы. 9 ліп. пасля 5-гадзіннага бою апалчэнцы былі вымушаны адысці да Віцебска, дзе працягвалі змагацца з ворагам. Батальён Асаавіяхіма (450 чал., камандзір Клейнаў) трымаў абарону на ўчастку ўздоўж берага Зах. Дзвіны ў раёне Мазурына. 9—10 ліп. апалчэнцы да позняга вечара вялі баі супраць ням.-фаш. падраздзяленняў, знішчылі да 200 гітлераўцаў, якія пераправіліся цераз Зах. Дзвіну, 10 ліп. вялі баі на паўн.-ўсх. ускраіне Віцебска. 11 ліп. 1-я рота батальёна амаль уся загінула ў няроўным баі ў раёне в. Журжава. Жорсткія баі апалчэнцаў супраць ворага вяліся на тэр. прадпрыемстваў, вуліцах горада, у раёне Смаленскай шашы, у іншых месцах. 11 ліп. апалчэнцы пакінулі Віцебск разам з часцямі Чырв. Арміі, многія ўліліся ў яе рады, частка — у рады партызан і падпольшчыкаў.

*Літ.:* Андрющенко Н. К. На земле Белоруссии летом 1941 г. Мн., 1985.

*М. К. Андрушчанка*

**ВІЦЕБСКАЕ ПАТРЫЯТЫЧНАЕ ПАДПОЛЛЕ** ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Дзейнічала ў Віцебску і прыгарадзе з ліп. 1941 да чэрв. 1944, налічвала 15 тыс. чал., аб'яднаных у 66 падп. груп. У 1941 для нелегальнай работы ў горадзе было пакінута больш за 200 чал. Узначаліць работу павінен быў падп. парт. цэнтр на чале з сакратаром Віцебскага гаркома КП(б)Б П. І. Івановым. Прадстаўніком ЦК КП(б)Б быў пакінуты 2-гі сакратар Беластоцкага абкома камсамола П. І. Папоў. Абодва яны не выканалі даручэння, самавольна пакінулі горад. Пакінутыя ў падполлі людзі апынуліся ў акупіраваным Віцебску без дакументаў (камуністы старыя дакументы здалі на захоўванне, новыя Іваноў не выдаў), ім засталіся невядомыя многія канспіратыўныя кватэры, было страчана шмат часу на пошукі кіраўнікоў. Многія падп. групы ў першы год акупацыі створаны патрыётамі самастойна. Ад парт. цэнтра ў горадзе асталіся толькі сакратары Чыгуначнага райкома партыі Б. К. Сяменаў (да канца 1941) і І. Г. Грыгор'еў (да мая 1942). Адны з першых у ліп.—жн. 1941 пачалі барацьбу з акупантамі падп. групы К. С. Акаловіч і М. Л. Мурашкі — Р. Ф. Махнова (медустановы), А. Я. Белахвосцікава (Стадыённы паселак), В. А. Вярбіцкага (Маркаўшчына), У. А. Казлоўскага (электрападстанцыя), А. Г. Канаплева (пазней Л. Дз. Бярозкінай, вузел сувязі), М. А. Купалава (Чэпінскі лесасклад), В. С. Кулагінай (в. Букацна), П. К. Ляхоўскага (ст. Старое Сяло), Ф. К. Мехава і А. А. Гагулі (чыг. вузел), М. Я. Нагібава (вуліцы Гарадоцкія), Е. С. Спірыдонавай (в. Трынўкі), Л. І. Хрыпача (торфапрадпрыемствы), В. Дз. Шалуха (таракамбінат), сямейная дыверсійная група В. І. Кірыленкі і інш.

У першыя дні акупацыі патрыёты, рызыкуючы жыццём, прымалі па радые зводкі Саўінфармбюро і распаўсюджвалі іх сярод насельніцтва. Многія мелі радыепрыёмнікі і прымалі перадачы з Масквы: М. П. Бабахін, Казлоўскі, У. А. Шанкавяка. Болей як 4 мес. запісваў зводкі Канаплеў, пакуль не быў арыштаваны і 19.12.1941 закатаваны фашыстамі. Штомесячныя справаздачы жандармерыі мясц. камендатуры сведчаць пра масавы характар супраціўлення віцяблян ужо ў першы перыяд акупацыі. Толькі ў лютым 1942 было арыштавана 953 чал., а шмат «парушальнікаў» не было злоўлена. Падпольшчыкі пранікалі ў створаныя гітлераўцамі ўстановы, уладкоўваліся працаваць на аэрадром, чыг. вузел, адкрывалі па рамонту адзення, абутку, гадзіннікаў, посуду майстэрні, якія служылі для сустрэч і захоўвання зброі, лістовак. Яны таксама вялі антыфаш. агітацыю, падавалі сігналы сав. самалётам, рабілі дыверсіі, арганізоўвалі

сувязь з *брацтвамі праваслаўнымі* ў Вільні і інш гарадах і збіралі грошы для арганізацыі паўстання. 78 чал., у т. л зачыншчык забойства Кунцэвіча Сцяпан Пасіера, збеглі і былі прыгавораны завочна да пакарання смерцю.

*Літ* Витебская старина / Сост А П Сапунов Витебск, 1883 Т 1 С 211—244 *В І Мялешка*

**ВІЦЕБСКАЕ ПРА́ВА,** сістэма юрыдычных норм, якая замацавала аўтаномныя правы *Віцебскай зямлі* ў складзе ВКЛ, а таксама рэгламентавала прававое становішча насельнікаў гэтай зямлі Было зафіксавана прывілеем 1503 вял. князя ВКЛ Аляксандра, выдадзеным у сувязі з тым, што ранейшыя *віцебскія прывілеі* вял. князеў ВКЛ былі ўкрадзены Нормы В п выпрацаваны яшчэ ў часы *Віцебскага княства* Князі, якія ўступалі на Віцебскі прастол, абавязаны былі выказаць згоду правіць паводле В п., што фіксавалася дагаворам. Пасля далучэння Віцебскага княства да ВКЛ нормы В п без значных змен гарантаваліся вял. князямі ВКЛ. Многія нормы прывілея 1503 замацавалі статус Віцебскай зямлі як адасобленай аўтаномнай адм.-тэр. адзінкі Напр., ваяводу можна было прызначыць толькі са згоды віцяблян, судзіць і караць апошніх належала ў Віцебску Значнае месца ў прывілеі адведзена нормам, якія забяспечвалі маемасныя і інш. правы віцяблян. В. п. мела істотнае значэнне ў прававой рэгламентацыі жыцця мясцовага насельніцтва. Прывілей 1503 разам з іншымі абласнымі прывілеямі стаў крыніцай Статутаў ВКЛ.

*Кр* Акты относящиеся к истории Западной России, собранные и изданные Археографическою комиссиею Т 1—5 Спб, 1846—53

*Літ* Ясинский М Уставные земские грамоты Литовско-Русского государства Киев, 1889, Якубовский И Земские привилеи Великого княжества Литовского // Журн Мин ва нар просвещения 1903 № 4, 6, Любавский М К Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно 2 изд М, 1915, Юхо І Крыніцы беларуска-літоўскага права Мн, 1991 *І А Юхо*

**ВІЦЕБСКАЕ РЭА́ЛЬНАЕ ВУЧЫ́ЛІШЧА.** Існавала ў Віцебску ў 1910—18. Тэрмін навучання 7 гадоў. Заснавана паводле завяшчання мсціслаўскага ваяводы І. Гільзена (памер у 1786), які, прызначаючы нашчадкамі сваёй багатай спадчыны пляменнікаў І. і К. Шадурскіх, паставіў умову, каб сродкі ад атрыманых даходаў накіроўваліся перш за ўсё на «распаўсюджванне навук і выхаванне беднага высакароднага юнацтва». Нашчадкі не выконвалі ўмоў завяшчання, таму Мін-ва нар. асветы і Віцебская мужчынская гімназія ў 1907 праз суд атрымалі ад іх 200 тыс. руб. Палавіна гэтых сродкаў была накіравана на адкрыццё рэальнага вуч. ў Віцебску, якое размяшчалася ў доме купца Пішчуліна. Дырэктар В. К. Краснянскі. Былі набраны хлопчыкі ў падрыхтоўчы і 2 першыя класы Старэйшыя класы адкрываліся паступова па аднаму штогод Поўны склад навучэнцаў набраны ў 1916 (93 чал.). Выкладаліся матэматыка, фізіка, прыродазнаўства, чарчэнне, рысаванне, ням і французская мовы, механіка, тэхналогія, камерцыя. Плата за навучанне ў падрыхтоўчым класе 50 руб., у асн.— 60 руб. У 1917 адбыўся адзіны выпуск (72 чал.). *С В Сяліцкі*

**ВІЦЕБСКАЕ ТАВАРЫ́СТВА СЕ́ЛЬСКІХ ГАСПАДАРО́Ў,** Таварыства віцебскіх сельскіх гаспадароў. Існавала ў 1876 — сярэдзіне 1910-х гадоў. Лічыла сябе пераемнікам *Беларускага вольнага эканамічнага таварыства* ў Віцебску. Створана памешчыкамі Віцебскай губ. з мэтай «садзейнічаць поспехам земляробчай прамысловасці». Правадзейным членам т-ва мог стаць кожны землеўладальнік губерні, які падпісаў статут і плаціў штогадовы ўзнос (5 руб), у 1877 налічвала 76, у 1878 — 152 чал Т-ва выбірала таксама ганаровых членаў і членаў-карэспандэнтаў. Ганаровым старшынёй яго лічыўся віцебскі губернатар Найбольш пленным быў пач перыяд дзейнасці т-ва (да сярэдзіны 1880-х гадоў) У 1878 яно адкрыла б-ку, у 1880 стварыла склад земляробчых прылад і машын і заснавала Т-ва ўзаемнага крэдыту землеўладальнікаў Віцебскай губ. (абарот капіталу ў 1881—113 тыс., у 1903—11,9 млн. руб.) Неаднаразова наладжваліся с.-г выстаўкі, у т. л. 2 выстаўкі прадукцыі сял гаспадарак у 1884 (перароможцы ўзнагароджваліся земляробчымі прыладамі, пародзістай жывёлай, гатунковым насеннем), выстаўка саматужных промыслаў у 1885 і інш Спрабавала заснаваць агранамічную школу з узорнай фермай, выступала за адкрыццё на Беларусі вышэйшай навуч установы. Пасля 10-гадовага заняпаду дзейнасць т-ва з сярэдзіны 1890-х гадоў зноў ажывілася. Пры ім былі створаны аддзелы па вінакурстве, жывёлагадоўлі, лесаводстве, адкрыты практычныя курсы па масларобстве, заснаваны іандлева-прамысл. сіндыкат. У 1898—99 т-ва выдавала газ. *«Витебский листок»* У пач. 1900-х гадоў шырока адзначаўся 25-гадовы юбілей т-ва арганізаваны с.-г. і прамысловыя выстаўкі, праведзены 1-ы абласны з'езд сельскіх гаспадароў бел., прыбалтыйскіх і некаторых рус. губерняў (1903, г. Дзвінск) і інш. Т-ва сістэматычна праводзіла ў губерні с-г. анкетаванне, выказала шэраг канкрэтных прапаноў па паляпшэнні грунтавых дарог, будаўніцтве праз Віцебскую губ. Маскоўска-Ковенскай чыг., рэканструкцыі *Бярэзінскай воднай сістэмы*, арганізацыі таннага крэдыту, вырашэнні праблемы сервітутаў і інш Некаторыя ідэі т-ва па рэарганізацыі агр. адносін ажыццеўлены ў ходзе *сталыпінскай аграрнай рэформы* Спыніла існаванне ў час 1-й сусв. вайны.

*Літ* Устав Витебского общества сельских хозяев. Витебск, [1876], Тое ж Спб, [1877], Устав Витебского товарищества сельских хозяев Витебск, 1895, Отчет о действиях Общества витебских сельских хозяев и состоящих в его ведении земледельческих кружков Витебск, [1878] — 1916, Труды первого областного съезда сельских хозяев в гор Двинске в 1903 г Витебск, 1904 *М В Верабей*

**ВІЦЕБСКАЕ ТАВАРЫ́СТВА ЎРАЧО́Ў,** Таварыства віцебскіх урачоў Утворана ў 1874 у Віцебску па ініцыятыве в. а. інспектара ўрачэбнай управы Ф. П. Купчынскага. Дзейнічала да 1941 (з перапынкамі) У 1876 налічвала 41 чалавека. Напачатку займалася пераважна пытаннямі сан.-гігіенічнага стану Віцебска. Пратаколы т-ва ў 1877—78 друкаваліся ў *«Витебских губернских ведомостях»* і выдаваліся асобнымі адбіткамі У 1913 з нагоды прыняцця рэзалюцыі па справе Бейліса ў т-ве адбыўся раскол. У гады 1-й сусв. вайны яго дзейнасць аслабела. У 1917 т-ва пераўтворана ва ўрачэбную секцыю саюза «Усерасійская медыка-санітарная праца» («Усемедсанпраца»), потым — у акруговае аддзяленне саюза У 1925 пры аддзяленні створаны навуковы гурток, на пасяджэннях якога заслухоўваліся даклады пра мед. з'езды, справаздачы мед. устаноў і інш З 1926 у лячэбных установах горада створаны ўрачэбныя секцыі па спецыяльнасцях. У 1935 пасля адкрыцця кафедраў Віцебскай бальніцы-мединстытута секцыі аб'ядналіся ў навукова-мед т-ва Яно імкнулася далучыць мясцовых урачоў да навуковай працы і палепшыць мед. абслугоўванне насельніцтва горада і бліжэйшых раёнаў У 1937 у т-ве аднаўлены спецыялізаваныя секцыі. Т-ва аб'ядноўвала пераважна супрацоўнікаў мединстытута, у т. л. 27 прафесараў і дацэнтаў і 302 асістэнтаў (1941). Спыніла існаванне ў сувязі з пачаткам Вял. Айч. вайны. З 1944 дзейнічаюць абласныя спецыялізаваныя мед. навук. т-вы.

*Літ* Молчанов А П Новые материалы из истории возникновения медицинских обществ Белоруссии // Здравоохранение Белоруссии 1969 № 5 *А П Малчанаў*

**ВІЦЕБСКАЯ АБЛАСНА́Я БІБЛІЯТЭ́КА.** Заснавана ў 1925 як філіял Дзярж б-кі БССР на базе фондаў Віцебскага аддзялення Маскоўскага археалагічнага ін-та, Ін-та нар. адукацыі і Віцебскага аддзялення Дзярж. музея Беларусі. У 1938 пераўтворана ў абл. б-ку. У Вял. Айч. вайну бібліятэчны фонд (100 тыс. экземпляраў) знішчаны ням.-фаш. захопнікамі. Адноўлена ў1944. Бібліятэчны фонд (на 1.1.1992) 639,4 тыс. экз Мае 13 аддзелаў, у т. л. бел., краязнаўчай і замежнай л-ры, мастацтва, перыёдыкі і інш. Навукова-метадычны і бібліяграфічны цэнтр б-к вобласці Выдае метадычныя і бібліяграфічныя матэрыялы, паказальнікі і спісы л-ры, памяткі («За шчасце, свабоду роднага краю», 1964; «Віцебску 1000 год», 1973, «Залатыя зоркі Віцебшчыны», 1976; «Васіль Быкаў», 1980; «Рыгор Барадулін», 1985, і інш.). Штоквартальна выдае бібліяграфічны паказальнік «Віцебская вобласць».

**ВІЦЕБСКАЯ АКРУ́ГА.** Існавала на Беларусі ў 1924—30. Утворана 17.7.1924. У яе ўвайшлі цалкам былы Віцебскі пав. і часткі Аршанскага, Гарадоцкага, Лепельскага, Полацкага і Сенненскага пав. Цэнтр — г. *Віцебск.* Пл. акругі

11,4 тыс. км². Насельніцтва 583,4 тыс. чал. (1926). Уключала 12 раёнаў: Бешанковіцкі, Віцебскі, Высачанскі, Гарадоцкі, Езярышчанскі, Лезненскі, Лосвідскі, Мяжанскі, Сенненскі, Сіроцінскі, Суражскі, Чашніцкі; 3 гарады: Віцебск, Гарадок, Сянно; 5 мястэчак: Бешанковічы, Лезна, Сураж, Чашнікі, Янавічы. 20.8.1924 раёны акругі падзелены на 131 сельсавет. 29.10.1924 Лосвідскі р-н перайменаваны ў Кузняцоўскі р-н, які скасаваны 26.3.1927, яго тэр. ўвайшла ў склад Віцебскага р-на. 12.10.1929 скасаваны Езярышчанскі р-н, яго тэр. аб'яднана з Гарадоцкім р-нам. Акруговая газ. «Заря Запада». В. а. скасавана 26.7.1930. *М. І. Камінскі*

**ВІЦЕБСКАЯ АРГАНІЗА́ЦЫЯ РСДРП.** Створана ў канцы 1903 як група РСДРП. З сак. 1904 уваходзіла ў *Паўночна-Заходні камітэт РСДРП*, з жн. 1905 — у *Паўночна-Заходні саюз РСДРП*, з чэрв. 1906 — у *Абласны саюз РСДРП Літвы і Беларусі*. На канец 1904 налічвала 180 чл., 150 спачуваючых; у 1905 — 650 чл. Мела калегію прапагандыстаў з 8 чал., 17 гурткоў вышэйшага, сярэдняга і ніжэйшага тыпаў, групы на льнопрадзільнай ф-цы «Дзвіна», кардонна-папяровай ф-цы, на цагельных з-дах, у чыг. майстэрнях і інш. прадпрыемствах. Напярэдадні рэвалюцыі 1905—07 пры В. а. РСДРП створана сялянская арг-цыя, у якой было 75 чл. і больш за 200 спачуваючых. Пазней утворана Віцебская акруговая арг-цыя РСДРП, якая аб'ядноўвала Віцебскую, Полацкую, Гарадоцкую, Невельскую, Веліжскую і Вялікалуцкую групы РСДРП. Арганізацыйную і агітацыйную работу сярод салдат праводзіла Віцебская ваенна-рэв. арг-цыя РСДРП. У адказ на падзеі ў Пецярбургу 9(22).1.1905 В. а. РСДРП выдала лістоўку «Пасля крывавых падзей 9 студзеня», 26—31.1(8—13.2).1905 удзельнічала ў арганізацыі стачкі пратэсту друкароў, рабочых тытунёвай ф-кі і інш. Пад яе кіраўніцтвам прайшлі забастоўкі, першамайская дэманстрацыя, у маі — чэрв.— 9 сходаў і 5 мітынгаў, у якіх удзельнічала больш за 1 тыс. рабочых. Паўгадавіна «крывавай нядзелі» адзначана мітынгам і дэманстрацыяй, выдадзены лістоўкі. Члены арг-цыі выказваліся за склікание III з'езда партыі, падтрымлівалі тактыку байкоту Булыгінскай думы, праводзілі сходы рабочых, выпусцілі лістоўку. 24.8(6.9). 1905 дэманстранты (400 чал.) сарвалі пасяджэнне гар. думы. У час Кастр. Усерас. паліт. стачкі прадстаўнікі арг-цыі ўваходзілі ў *Віцебскі каалiцыйны камітэт*. У час Снеж. ўзбр. паўстання ў Маскве 1905 члены арг-цыі спрабавалі правесці паліт. забастоўку, наладжвалі мітынгі, вялі агітацыю сярод салдат, стваралі баявыя дружыны. Нягледзячы на арышты, арг-цыя ў 1906 налічвала 600—700 чл., мела групы на буйных прадпрыемствах, пасылала дэлегатаў на IV (Аб'яднаўчы) і V (Лонданскі) з'езды РСДРП. Для паліт. агітацыі ў гады рэакцыі (1907—10) выкарыстоўвала прафсаюзы, спажывецкія т-вы, бальнічныя касы, гурткі самаадукацыі. У перыяд новага рэв. ўздыму (1910—14) дзейнасць арг-цыі ажывілася, пад яе кіраўніцтвам прайшла стачка пратэсту супраць Ленскага расстрэлу (1912), вялася работа сярод салдат, сялян, збіраліся грошы ў фонд газ. «Правда», падтрымлівалася сувязь з бальшавіцкай фракцыяй 4-й Дзярж. думы. У пачатку 1-й сусв. вайны, ва ўмовах узмацнення ваен. становішча ў губерні, арг-цыя разгромлена (жн. 1914). У лют. 1917 з латышоў-бежанцаў у Віцебску створана *Віцебская латышская раённая арганізацыя РСДРП*. 2(15).3. 1917 на нарадзе прадстаўнікоў меншавікоў і бундаўцаў Віцебска створана Віцебская аб'яднаная арг-цыя РСДРП, у якую ўвайшлі і бальшавікі. 20.6(3.7). 1917 на сходзе бальшавікоў, «міжраёнцаў» і меншавікоў-інтэрнацыяналістаў вырашана стварыць самастойную арг-цыю. 2(15).7.1917 аформлена В. а. РСДРП (інтэрнацыяналістаў). Выбраны к-т з 9 чал. (С. І. Барадаўскі, І. І. Берасцень, Далгашоў, В. Пятроў, Д. М. Тайноў, В. Я. *Чунчын* і інш.), які наладзіў сувязь з ЦК РСДРП(б), 15(28).9.1917 прыняў пастанову назваць арг-цыю В. а. РСДРП (бальшавікоў). Яна ўвайшла ў *Паўночна-Заходнюю абласную арганізацыю РКП(б)*. 1—3(14—16).10.1917 адбылася 1-я губернская канферэнцыя РСДРП(б), дэлегаты якой (ад больш як 3 тыс. чл.) усклалі на выбраны 8(21).9.1917 камітэт абавязкі губернскага парт. органа. Атрымаўшы звесткі аб Кастр. узбр. паўстанні, 27.10(9.11). 1917 Віцебскі к-т РСДРП(б) на сумесным пасяджэнні з прадстаўнікамі вайсковых часцей і рэв. пралетарыяту ўтварыў Віцебскі ваенна-рэвалюцыйны камітэт. *В. С. Савіцкая*

**ВІЦЕБСКАЯ ВО́БЛАСЦЬ.** Размешчана на Пн Беларусі, мяжуе з Літвой, Латвіяй, Расіяй. Пл. 40,1 тыс. км². Насельніцтва 1451 тыс. чал. (1993). Цэнтр — г. *Віцебск*. Утворана 15.1.1938, 20.2.1938 у склад вобласці ўключана 20 раёнаў: Аршанскі, Асвейскі, Багушэўскі, Бешанковіцкі, Ветрынскі, Віцебскі, Гарадоцкі, Дрысенскі, Дубровенскі, Лепельскі, Лезненскі, Мехаўскі, Полацкі, Расонскі, Сенненскі, Сіроцінскі, Суражскі, Талачынскі, Ушацкі, Чашніцкі. На 1.1.1941 у В. в. 8 гарадоў, у т. л. 3 абл., 5 раённага падпарадкавання, 13 гар., 7 рабочых паселкаў, 20 раёнаў, 309 сельсаветаў. 20.9.1944 Асвейскі, Ветрынскі, Дрысенскі, Полацкі, Расонскі, Ушацкі р-ны перададзены Полацкай вобл. 9.9.1946 утвораны Арэхаўскі, Кохаnаўскі і Ульскі р-ны. 8.1.1954 да вобласці далучаны Асвейскі, Ветрынскі, Дрысенскі, Полацкі, Расонскі, Ушацкі р-ны скасаванай Полацкай вобл. 17.12.1956 скасаваны Арэхаўскі, Коханаўскі, Ульскі р-ны; 18.3.1958 Мехаўскі р-н перайменаваны ў Езярышчанскі; 8.8.1959 скасаваны Асвейскі р-н. 20.1. 1960 да В. в. далучаны Браслаўскі, Відзскі, Глыбоцкі, Докшыцкі, Дунілавіцкі, Мёрскі, Пастаўскі, Пліскі, Шаркоўшчынскі р-ны скасаванай Маладзечанскай вобл., скасаваны Багушэўскі, Ветрынскі, Відзскі, Дунілавіцкі, Суражскі р-ны; 23.11.1961 Сіроцінскі р-н перайменаваны ў Шумілінскі. Скасаваны раёны 17.4.1962 — Шаркоўшчынскі, 25.12. 1962 — Докшыцкі, Дрысенскі, Дубровенскі, Езярышчанскі, Пліскі, Расонскі, Ушацкі, Чашніцкі, Шумілінскі; утвораны Верхнядзвінскі р-н. 6.1.1965 зноў утвораны Докшыцкі, Дубровенскі, Расонскі, Чашніцкі, 30.7.1966 — Ушацкі, Шаркоўшчынскі, Шумілінскі р-ны. На 1.1.1993 у В. в. 21 раён Аршанскі, Бешанковіцкі, Браслаўскі, Верхнядзвінскі, Віцебскі, Гарадоцкі, Глыбоцкі, Докшыцкі, Дубровенскі, Лепельскі, Лезненскі, Мёрскі, Пастаўскі, Полацкі, Расонскі, Сенненскі, Талачынскі, Ушацкі, Чашніцкі, Шаркоўшчынскі, Шумілінскі; 19 гарадоў, у т. л. 5 абл., 14 раённага падпарадкавання, 26 гар. паселкаў, 248 сельсаветаў, 6810 населеных пунктаў. Пра кожны раён вобласці гл. адпаведны артыкул. *А. В. Скараход*

**ВІЦЕБСКАЯ ВУЧО́НАЯ АРХІ́ЎНАЯ КАМІ́СІЯ,** гістарычнае таварыства Віцебскай губ. ў 1909—19. Створана 31.5(13.6).1909 па ініцыятыве Е. Р. Раманава, А. П. Сапунова, В. С. Арсеньева. Паводле статута мела на мэце ахову помнікаў гісторыі і культуры, вывучэнне і папулярызацыю гісторыі роднага краю, збіранне прадметаў старажытнасці, правядзенне археал. раскопак, збор і вывучэнне старадаўніх рукапісаў і дакументаў, арганізацыю экскурсій па гіст. месцах, выданне навук. і папулярных прац па гісторыі, геаграфіі, археалогіі і этнаграфіі Віцебшчыны. Да канца 1910 камісія налічвала 28 членаў-заснавальнікаў, 99 ганаровых членаў (сярод іх Дз. Н. Кайгарадаў, Я. Ф. Карскі, В. В. Ключэўскі, А. С. Лапа-Даніleўскі, П. П. Сяменаў-Цяншанскі, А. А. Шахматаў, Б. І. Эпімах-Шыпіла), 325 правадзейных членаў (сярод іх мясц. гісторыкі і краязнаўцы М. В. Анцаў, К. А. Зміградскі, У. А. Кадыгробаў, Дз. С. Леанардаў, М. Я. Нікіфароўскі, У. К. Стукаліч, К. І. Ціхаміраў) і 15 членаў-супрацоўнікаў. Старшыні камісіі Арсеньеў, Кадыгробаў [з 26.9(9.10) 1910] і Ціхаміраў. Камісія мела праўленне, савет, гіст. архіў (314 спраў), музей (у ім 1069 манет і 39 медалёў), б-ку (3700 т.). Існавала на субсідыі ўрада (адначасова 500 руб. і 200 руб. штогод), членскія ўзносы, грашовыя ахвяраванні ад прыватных асоб і ўстаноў, зборы з лекцый. У сувязі з 100-годдзем разгрому Напалеона ў Расіі камісія правяла вялікую работу па ўшанаванні памяці герояў Айч. вайны 1812, адшуканні брацкіх магіл, устанаўленні помнікаў на Віцебшчыне, для чаго быў створаны спец. камітэт з 18 чал. На сабраныя камісіяй сродкі пабудаваны помнік у гонар герояў Айч. вайны 1812 у Віцебску. У 1910 па ініцыятыве камісіі адкрыты *Віцебскі настаўніцкі інстытут*, у 1911 *Віцебская*

*аддзяленне Маскоўскага археалагічнага інстытута* Мела кантакты больш чым з 100 навук ўстановамі Расіі і замежных краін Пры ей была камісія для разгляду архіўных спраў ва ўстановах Выдавала перыядычны зб *«Полоцко-Витебская старина»* Ліквідавана ў сувязі з утварэннем Віцебскага губ архіўнага упраўлення Архіў, музей і б-ка перададзены Віцебскаму аддзяленню Маскоўскага археал ін-та

*Публ* Сапунов А П Белоруссия и белорусы Витебск, 1910, Глыбовский В И 1812 й год в Витебской губернии Витебск, 1910, Арсеньев В С Личный состав Витебской ученой архивной комиссии к 31 мая 1910 года Витебск, 1910, Мельникова М (сост) Каталог Архива Витебской ученой архивной комиссии Витебск, 1912 Змигродский К А (сост) Каталог монет и медалей музея Витебской ученой архивной комиссии Витебск, 1911

*Літ* Алексеев Л В Белорусская археология и историческое краеведение во второй половине XIX — начале XX в // Сов археология 1968 № 3 *М І Камінскі*

**ВІЦЕБСКАЯ ГУБЕ́РНСКАЯ ДРУКА́РНЯ.** Існавала ў 1797—1917 (з перапынкам у 1812—15, калі была знішчана ў выніку нашэсця напалеонаўскіх войск) у Віцебску Першае выданне «Пахвальная песня пры ўступленні на прастол імп ўсей Расіі Паўла Пятровіча Першага » надрукавана ў 1799 на рускай мове грамадзянскім шрыфтам Друкавала афіц цыркуляры, газ. *«Витебские губернские ведомости»* (з 1838), «Памятную кніжку Віцебскай губерні» (з 1860), «Гісторыка-юрыдычныя матэрыялы » (вып 1—32, 1871—1906), «Агляд Віцебскай губерні» (з 1885), *«Віцебскую даўніну»* (т 1, 4, 5, 1883, 1885, 1888) Усяго надрукавана больш за 250 назваў кніг (большасць з іх адбіткі з «Витебских губернских ведомостей»), больш за 400 друкаваных выданняў Значную частку складалі кнігі па бел гісторыі «Кароткі летапіс падзей, якія ўплывалі на лес Віцебскай губерні» (1876), «Полацкі Сафійскі сабор» (1888), «Помнікі часоў старажытных і найноўшых у Віцебскай губерні» (1903), «Нарыс гістарычных лесаў праваслаўя і рускай народнасці на Беларусі наогул і ў межах Полацкай епархіі ў прыватнасці» (1910), «Беларусь і беларусы» (1910) А П Сапунова, зб «Віцебская губерня Гіст -геагр і стат агляд» (1890), «Адбіткі відаў храмаў, свяшчэнных прадметаў, гарадоў Паўночна-Заходняга краю, народных тыпаў Віцебскай губерні і прадметаў старажытнасці» (1891), «Кароткае апісанне ваенных дзеянняў у Віцебскай губерні ў часы Айчыннай вайны 1812 г» (1892) У П Цеханавецкага, «Беларусь і Літва Нарысы з гісторыі гарадоў на Беларусі» (рэц на выд П Бацюшкава, 1891, 1893, 1894) У К Стукаліча, «Лепельскі павет Віцебскай губерні» (1895) І Д Гарбачэўскага, «Веліж» (1895) А М Кісялева, «Сельскашкольнае навучанне на паўднева-ўсходняй ускраіне Віцебскай Беларусі » (1893), «Ганчарныя тэракоты Віцебска па археалагічных знаходках» (1897), «Старонкі з

недалёкай даўніны горада Віцебска» (1899) М. Я. Нікіфароўскага; «Агульны нарыс Віцебскай губерні» (1898) Е. Р. Раманава; «Вынятка з справаздачы пра раскопкі... у Невельскім павеце Віцебскай губерні» (1900) Л. Ю. Шапялевіча; «Эканамічнае значэнне народнай асветы, становішча апошняй і яе патрэбы ў Віцебскай губерні» (1903) І. А. Самайловіча і інш. Выдадзены шэраг кніг па гісторыі цэркваў, сабораў, манастыроў У. Альбіцкага, В. Волкава, І. Я. Спрогіса і інш. Некалькі выданняў па гісторыі на польскай мове, у т. л. «Жыццё Януша Радзівіла...» (1859) Э. Катлубая. Па бел. этнаграфіі і фальклоры В. г. д. выдала працы: «Кароткая нататка пра беларускую гаворку» (1895) Стукаліча; «Нарысы простанароднага жыццябыцця ў Віцебскай Беларусі і апісанне прадметаў ужытку» (1895) Нікіфароўскага; «Беларуская частушка» (1903) В. Астаповіча і інш. *Я. С. Умецкая.*

**ВІЦЕБСКАЯ ГУБЕ́РНЯ.** Існавала на Беларусі ў 1802—1924. Утворана 27.2 (11.3).1802 у выніку скасавання *Беларускай губерні* і падзелу яе тэр. на *Магілёўскую губерню* і В. г. Цэнтр — г. Віцебск. Увайшла ў склад *Беларускага генерал-губернатарства.* У 1823—56 уваходзіла ў склад Віцебскага, Магілёўскага, Смаленскага, у 1863—69 — Віленскага генерал-губернатарстваў. Падзялялася на 12 паветаў: Веліжскі, Віцебскі, Гарадоцкі, Дрысенскі, Дзвінскі, Лепельскі, Люцінскі, Невельскі, Полацкі, Рэжыцкі, Себежскі, Суражскі (скасаваны ў 1866). Акрамя павятовых гарадоў існавалі 42 мястэчкі. Паводле перапісу 1897 тэр. 386,5 тыс. кв. вёрст, нас. 1486,2 тыс. чал., у т. л. 736,9 тыс. мужч. полу, 752,4 тыс. жаночага. Паводле саслоўнага падзелу: дваран 30 509, святароў (і членаў іх сем'яў) 4216, купцоў (і членаў іх сем'яў) 5236, мяшчан 277574, сялян 1 164 444. Паводле веравызнання: праваслаўных 825 524, стараавераў 82 968, католікаў 356 939, лютэран 46 139, іудзеяў 175 586. Беларусаў было 788 599 чал. Пісьменнага насельніцтва ў В. г. 24,6 %, у гарадах — 45,9 %. Па тэр. В. г. праходзілі чыгункі Арлоўска-Віцебская, Рыга-Дынабургская, Дынабургска-Віцебская; паштовыя тракты Віцебска-Веліжскі, Віцебска-Лепельскі, Невельска-Велікалуцкі, Веліжска-Смаленскі і інш. Пасля вайны 1812 насельніцтва ў В. г. зменшылася амаль на 37 тыс. чал. У 1848 у В. г. Полацкі кадэцкі корпус, 2 гімназіі, семінарыя, 6 павятовых вучылішчаў, 10 прыходскіх і 10 сельскіх вучылішчаў, 6 прыватных жаночых пансіёнаў. Да 1889 было 204 нар. вучылішчы, 165 царкоўнапрыходскіх школ і школ пісьменнасці. У 1884 у В. г. 10 гарадскіх бальніц, 28 сельскіх лячэбніц. Да канца 19 ст. прам-сць у В. г. была развіта слаба, пераважалі вінакурныя з-ды; былі пашыраны лясныя промыслы — высечка лесу на продаж, гонка дзёгцю і інш. У 1914 у В. г. 228 навучальных устаноў (гімназіі, прагімназіі, рэальныя вучылішчы, семінарыі і інш.), 1814 нар. вучылішчаў, 365 царкоўнапрыходскіх школ і 57 школ пісьменнасці; 186 урачоў; 149 касцёлаў,

666 цэркваў, 14 кірхаў, 53 сінагогі, 262 яўрэйскія малітоўныя дамы і 81 стараверскі.

Губернатарамі В. г. былі: Шышкін (з 1802), П. І. Сумарокаў (1808—12), Лешэрн (з 1813), Тармасаў (з 1815), Бутовіч (з 1819), Саракунскі (з 1824), Пяшчураў (з 1829), Гамалея (з 1830), М. І. Шрэйдэр (1831—36), І. С. Жыркевіч (1836—38), Львоў (1839), Н. М. Кліменцьеў (з 1840), Татарынаў (1846), А. А. Радзішчаў (1847), С. А. Далгарукаў (1848—49), С. М. Ярмолаў (з 1849), Я. С. Цілічаў (1853—56), Р. Дз. Калакольцаў (1856—58), П. М. Клушын (1858—61), А. С. Аголін (1862), У. М. Вяроўкін (1863—67), П. П. Касагоўскі (1867—68), У. М. Токараў (1868), П. Я. Растоўцаў (1869—80), В. В. фон Валь (1880—84), В. М. Далгарукаў (1884—94), У. А. Левашоў (1894—99), І. І. Чапялеўскі (1899—1904), Б. Б. Гершаў фон Флотаў (1904—11), М. В. Арцымовіч (1911—14), М. П. Галахаў (з 1914).

З 7.11.1917 В. г. ў складзе *Заходняй вобласці,* з 13.9.1918 — Зах. камуны РСФСР, БССР (студз.— люты 1919), РСФСР. У сувязі з утварэннем *Гомельскай губерні* (крас. 1919) у В. г. перададзены Сенненскі пав. Магілёўскай губ. (ліп. 1919) і Аршанскі пав. Гомельскай губ. (ліст. 1920). Паводле мірнага дагавора РСФСР з Латвіяй ад 11.8.1920 Дзвінскі, Люцынскі і Рэжыцкі пав. адышлі да Латвіі. У лют. 1923 у сувязі з узбуйненнем паветаў скасаваны Гарадоцкі, Дрысенскі і Сенненскі пав.; Лепельскі пав. перайменаваны ў Бачэйкаўскі. 10.3.1924 у сувязі з першым *узбуйненнем БССР* В. г. скасавана. Віцебскі, Гарадоцкі, Дрысенскі, Лепельскі, Полацкі, Сенненскі, Суражскі пав. ўвайшлі ў склад БССР, а Веліжскі, Невельскі, Себежскі — у склад Пскоўскай губ. РСФСР.

*Літ.:* Военно-статистическое обозрение Российской империи. Т. 8, ч. 1. Витебская губерния. Спб., 1852; Витебская губерния: Ист.-геогр. обзор. Вып. 1. Витебск, 1890; Первая всеобщая перепись населения Российской империи, 1897 г. V. Витебская губерния. Тетр. 1—3. Спб., 1899—1903; Памятная книжка Витебской губернии на 1861—1914. Витебск; Спб., 1860—1914.

*А. М. Філатава.*

**«ВІЦЕБСКАЯ ДАЎНІНА»**, «В и т е б с к а я  с т а р и н а», зборнік дакументаў па гісторыі Віцебшчыны і Полаччыны 11—19 ст. Падрыхтаваў і выдаў у *Віцебскай губернскай друкарні* бел. гісторык А. П. *Сапуноў.* Планавалася 6 тамоў, выдадзены тры: 1-ы (1883), 4-ы (1885), 5-ы (1888). У т. 1 матэрыялы пра Віцебск з 1021 па 1883: урыўкі з летапісаў, *Віцебскі летапіс,* інвентары горада, граматы віцебскіх і полацкіх князёў, статыстычныя звесткі пра насельніцтва, законы расійскага ўрада, што датычылі Віцебска і губерні, дакументы пра Віцебскае паўстанне 1623, Айч. вайну 1812, Траецкі манастыр, спісы віцебскіх ваявод і кашталянаў, полацкіх і віцебскіх праваслаўных і уніяцкіх епіскапаў і архіепіскапаў, граматы віцебскім мяшчанам конным і баярам панцырным,

Герб Віцебскай губерні. 1856.

прывілеі Віцебску на магдэбургскае права 1597 і 1644 і інш. У канцы тома змешчаны гіст.-статыстычны нарыс Сапунова пра Віцебск, заўвагі складальніка. Матэрыялы згрупаваны пераважна паводле тэматычнага прынцыпу, але Сапуноў змяшчаў іх і паводле гіст. значэння, не зважаючы на афіц. каноны выдання такіх зборнікаў. У 2-м і 3-м тамах планавалася змясціць дакументы па гісторыі Полацка, інш. гарадоў і мясцовасцей губерні. Ва ўступе да т. 4 змешчаны «Кароткі нарыс барацьбы Маскоўскай дзяржавы з Літвой і Польшчай у XIV—XVII ст.» Сапунова. У 1-й частцы — дакументы пра заняцце Полацка і наваколля ў 1563 войскамі рус. цара Івана IV; вызваленне Полацка і Полаччыны ў 1579 бел.-літ. і польскім войскамі на чале з каралём С. Баторыем. У 2-й частцы — дакументы часоў вайны Расіі і Рэчы Паспалітай 1654—67. Дакументы сведчаць пра жорсткую заваёўніцкую палітыку цароў Івана IV Грознага і Аляксея Міхайлавіча, асабліва выразна гэта паказана ў матэрыялах пра заваёвы Полацка ў 1563. У т. 5 дакументы і матэрыялы пра гісторыю Полацкай епархіі ад яе ўзнікнення да 1772, далучэнне паўн.-ўсх. часткі Беларусі да Расіі. У пачатку тома змешчаны «Кароткі нарыс гістарычнага лёсу Полацкай епархіі ад старажытнага часу да паловы XIX ст.», дзе ёсць звесткі пра ліквідацыю уніяцкай царквы, далучэнне яе да расійскай праваслаўнай царквы і правядзенне *Полацкага царкоўнага сабора 1839.* У т. 6 планавалася змясціць гіст. нарыс пра Віцебскую губ., дадаткі, паказальнікі. Выданне багата ілюстравана малюнкамі помнікаў архітэктуры, факсіміле рэдкіх рукапісных кніг, партрэтамі гіст. асоб, ёсць карты і інш. Большасць дакументаў у ім надрукавана ўпершыню, арыгіналы асобных з іх не захаваліся. Не ўсе дакументы друкаваліся цалкам, шмат з іх дадзены ў перакладзе.

*Літ.:* У л а щ и к Н. Н. Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода. М., 1973. С. 230—239.

*А. П. Грыцкевіч.*

**ВІЦЕБСКАЯ ЗЯМЛЯ́**, адм.-тэр. адзінка ў ВКЛ у 15—16 ст. Землямі звычайна называліся асабліва значныя *намесніцтвы,* якія мелі элементы аўтаноміі, замацаваныя *абласнымі прывілеямі.* Намесніцтва ў Віцебску, верагодна, з моманту свайго ўтварэння (1392) атрымала ад вял. князя Вітаўта грамату, якая гарантавала захаванне пэўных норм мясцовага права, што ўзыходзілі да дагавораў (радаў) паміж горадам і князем. Сляды такой граматы прасочваюцца ў архаічнай частцы земскіх прывілеяў, атрыманых В. з. Першым з іх быў прывілей вял. князя Казіміра IV (каля 1440—47, не захаваўся), які пазней быў пацверджаны вял. князямі Аляксандрам (1503) і Жыгімонтам Старым (1509, 1547). Гэтыя прывілеі гарантавалі мясцовым феадалам і мяшчанам правы, што былі абвешчаны шляхце цэнтр. часткі ВКЛ (Віленскаму і Трокскаму ваяводствам) прывілеямі 1387, 1432, 1434, а таксама права несці гарнізонную службу толькі ў сваёй зямлі, мясцовы (замкавы) суд і непадлегласць юрысдыкцыі ўпаўнаважаных вял. князя (дэцкіх). Мясцовае баярства карысталася выключным правам па чарзе кіраваць дзяржаўнымі валасцямі, якія знаходзіліся ў складзе зямлі, за выключэннем некалькіх маёнткаў, падпарадкаваных непасрэдна віцебскаму намесніку (гл. *Віцебскае права*). Аднак на практыцы самастойнасць В. з. была даволі абмежаванай. Асноўная ўлада належала намесніку (ужо ў прывілеях 1503 і 1509 ён называецца ваяводам), які прадстаўляў асобу вял. князя і прызначаўся з ліку буйных паноў ці князёў. *Азярышчанская воласць* і Усвяцкая воласць пры Казіміру IV былі вылучаны з-пад кіравання мясцовых баяр і ператвораны ў асобныя намесніцтвы. Відаць, самастойны намеснік быў і ў Оршы. Значныя валасці ў В. з. былі падараваны князям Андрэю Уладзіміравічу (Астроўна), Друцкім (Драчалукі і Вярхоўе), Жылінскім (Тулава), што таксама выключыла іх з-пад кантролю віцебскага баярства. Пасля 1511 за В. з. канчаткова замацавалася назва «ваяводства». Яе асобны статус быў афіцыйна скасаваны з прыняццем Статута ВКЛ 1566, які пашырыў на ўсю тэр. ВКЛ агульныя прававыя нормы.

*Літ.:* Акты, относящиеся к истории Западной России, собранные и изданные Археографической комиссией. Спб., 1846. Т. 1. № 204; Русская историческая библиотека. Спб., 1910. Т. 27. С. 373, 846—849; Я с и н с к и й М. Н. Уставные земские грамоты Литовско-Русского государства. Киев, 1889; Я к у б о в с к и й И. В. Земские привилеи Великого княжества Литовского // Журн. Мин-ва нар. просвещения. 1903. № 6; Л ю б а в с к и й М. К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства... [М., 1892]. С. 31—32.

*В. Л. Насевіч.*

**ВІЦЕБСКАЯ ЛАТЫ́ШСКАЯ РАЁННАЯ АРГАНІЗА́ЦЫЯ РСДРП.** Існавала

ў лют — ліп 1917 Утворана латышскімі сацыял-дэмакратамі для правядзення агітработы сярод латышоў-бежанцаў з акупіраванай германскімі войскамі Латвіі, а таксама латышоў ваен гарнізона Віцебска Выбраны к-т — В Я *Чунчын* (старшыня), К. Я *Дзірык* (нам. старшыні) і інш.— арганізаваў збор сродкаў у фонд газ «Правда», агітаваў рабочых уступаць у Чырв гвардыю. Пад яго кіраўніцтвам створаны 1 ы латышскі коннаразведвальны атрад, які пазней вырас у Латышскі сав. кавалерыйскі полк. Быў адкрыты латышскі клуб з бібліятэкай, куды паступалі газ. «Правда», «Сīņа» («Змаганне»), праводзіліся лекцыі, сходы, пасяджэнні Існаваў хор, аркестр, драмгурток, арганізоўваліся канцэрты, вечары самадзейнасці На пачатак жн. 1917 клуб аб'ядноўваў каля 500 чал. К-т падтрымліваў сувязь з бальшавікамі горада, з яго дапамогай у вер. 1917 створана с.-д. арг-цыя на чыг ст Віцебск. Арг-цыя вырасла з 20 да 300 чал Паводле нац складу яна стала інтэрнацыянальнай і ўваходзіла ў склад Віцебскай аб'яднанай арганізацыі РСДРП Бальшавікі вялі перагаворы з к-там пра стварэнне самастойнай гар рэв арг-цыі. 20 6(3 7).1917 у памяшканні клуба адбыўся арганізац. сход бальшавікоў, меншавікоў-інтэрнацыяналістаў і «міжраенцаў», які выбраў камісію па выпрацоўцы платформы будучай арг-цыі. На сходзе 2(15) 7.1917 афармлена Віцебская арг-цыя РСДРП інтэрнацыяналістаў, у якую ўвайшла В. л. р. а. РСДРП.

*В С Савіцкая*

**ВІЦЕБСКАЯ МАРЫІНСКАЯ ЖАНОЧАЯ ГІМНАЗІЯ.** Існавала ў Віцебску ў 1870—1917. Заснавана на базе Марыінскай жаночай школы, якая дзейнічала з 1863 Утрымлівалася на сродкі грамадскіх арг-цый, органаў гар самакіравання і дабрачынныя ахвяраванні У гімназію прымалі пераважна дачок дваран, чыноўнікаў, святароў (у 1900 было 413 навучэнак, з іх дзеці рабочых і сялян складалі 5 %), якія пасля заканчэння гар або пав. пачатковых вучылішчаў паспяхова вытрымлівалі конкурсныя экзамены. Тэрмін навучання 7 гадоў Выкладаліся закон божы, рус мова і славеснасць, гісторыя, геаграфія, матэматыка, фізіка, франц і ням мовы, дамаводства, чыстапісанне, рукадзелле, рысаванне, спевы, танцы. Выпускніцы не мелі права на паступленне ва ун-т з-за скарочанага аб'ему выкладання ў гімназіі дакладных і прыродазнаўчых навук, таму жадаючыя маглі скончыць дадаткова 8-ы (педагагічны) клас, у якім выкладалі педагогіку, методыку навучання ў пачатковых класах, праводзілі пед. практыку ў пачатковых школах Выпускніцы 8-га класа атрымлівалі атэстат настаўніцы пачатковых класаў. Штогод гімназія выпускала 80 чал. За гады існавання падрыхтавана каля 3 тыс вучаніц, у т. л 1 тыс настаўніц.

*С В Сяліцкі*

**ВІЦЕБСКАЯ МУЖЧЫНСКАЯ ГІМНАЗІЯ.** Існавала ў 1808—1918. Заснавана на базе 5-класнага нар вучылішча Падпарадкоўвалася папячыцельству Віленскай навучальнай акругі (у 1829—50 *Беларускай навучальнай акругі*, у 1850—64 Пецярбургскай). Тэрмін навучання 7, з 1871—8 гадоў. Ставіла за мэту падрыхтоўку навучэнцаў да паступлення ва універсітэт. Напачатку прымаліся дзеці ўсіх саслоўяў, з 1828 — дзеці дваран і чыноўнікаў. У розны час у гімназіі выкладаліся філасофія, палітэканомія права, польская, рус., лацінская, грэч., франц, ням мовы, фізіка-матэматычныя і прыродазнаўчыя дысцыпліны. У 1814 на прадметы гуманітарнага цыкла адводзілася $^2/_3$ вучэбнага часу У розныя часы выкладчыкамі гімназіі працавалі М. Чысцякоў (сябра В Р Бялінскага) і яго брат В Чысцякоў, гісторык А. П Сапуноў, этнографы М Я Нікіфароўскі, П В. Шэйн і інш. Штогод гімназію заканчвалі 20—30 выпускнікоў, за ўвесь час існавання сярэднюю адукацыю ў ей атрымалі каля 3 тыс. юнакоў Вучні гімназіі цікавіліся бел. культурай, удзельнічалі ў вызв. руху У 1830-я гады імі перапісвалася паэма «Энеіда навыварат», на «літаратурных гутарках» 1850-х гадоў абмяркоўваліся гімназічныя сачыненні на фальклорна-этнаграфічныя тэмы. У 1860 група гімназістаў зрабіла запіс у «Альбоме» А. І Вярыгі-Дарэўскага. Гімназісты ўдзельнічалі ў *паўстанні 1863—64* (з-за рэпрэсій і пераходу на нелегальнае становішча ўвосень 1863 з 300 вучняў на вучобу з'явіліся толькі 198), рэв. гуртках і выступленнях наступнага часу Сярод выпускнікоў і вучняў гімназіі дзекабрыст І І *Гарбачэўскі*, паэты Т *Заблоцкі-Лада* і Я *Вуль* (Э Карафа-Корбут), пісьменнік Г. Марцінкевіч, мемуарыст і ўдзельнік вызв руху М. *Маркс*, усходазнавец К *Касовіч*, верагодны аўтар паэмы «Тарас на Парнасе» К. Вераніцын, будучы педагог Д Сяменаў, літаратуразнавец Л. Шапялевіч, дактары С. Чыр'еў, А Чачот і інш У 1870 адкрыта таксама *Віцебская марыінская жаночая гімназія*, у 1905 — жаночая аляксееўская, у 1906 — прыватная мужчынская гімназія Неруша Скасаваны паводле дэкрэта ВЦВК ад 16.10 1918.

*Літ* Сапунов А Историческая записка 75-летия Витебской гимназии Витебск, 1884, Бас І Чацвера з Віцебска // Бас І Літаратуразнаўчыя эцюды Мн, 1977, Кісялеў Г Пошукі імя Мн, 1978

*Г В Кісялеў, С В Сяліцкі*

**ВІЦЕБСКАЯ НАСТАЎНІЦКАЯ СЕМІНАРЫЯ,** першая на Беларусі спец. навучальная ўстанова, якая рыхтавала настаўнікаў для прыходскіх вучылішчаў, падрыхтоўчых класаў гімназій і павятовых вучылішчаў. Існавала ў 1834—39 Заснавана па ініцыятыве папячыцеля *Беларускай навучальнай акругі* педагога Р. І. *Карташэўскага* Размяшчалася ў прыватным будынку На чале семінарыі стаяў дырэктар (упраўляючы) ланкастэрскімі вучылішчамі Бел. навуч. акругі Аглоблін, у штат уваходзілі загадчык Віцебскага ланкастэрскага вучылішча Вінаградаў і настаўнік, які быў адначасова наглядчыкам. Навучаліся юнакі з сем'яў дваран, мяшчан, обер-афіцэраў, праваслаўных царкоўнаслужыцеляў. Семінарысты вывучалі рус мову, арыфметыку, гісторыю Расіі і ВКЛ, методыку ўзаемнага навучання ў пачатковай школе па метаду Дж Ланкастэра (гл. ў арт *Ланкастэрскія школы)* Некаторыя навучэнцы займаліся таксама музыкай і спевамі. У вольны час семінарысты абавязаны былі наведваць урокі рус мовы і геаграфіі ў *Віцебскай мужчынскай гімназіі* Тэрмін навучання ў семінарыі 3 гады. За ўсе гады існавання былі падрыхтаваны 62 настаўнікі. Семінарыя закрыта з-за адсутнасці ў папячыцельства акругі сродкаў на яе ўтрыманне

*У С Пас›*

**ВІЦЕБСКАЯ ПРАВІНЦЫЯ,** адм.-тэр адзінка ў 1772—77 у складзе Пскоўскай губ. Цэнтр — г. Віцебск Агульная пл. 851 284 дзес. Паводле ўказа ад 22 7 1776 падзялялася на Веліжскі Гарадоцкі і Віцебскі паа. Уключала 4 парафіі з 39 цэрквамі і манастырамі 7 мястэчак, 166 сел, 2910 весак; каля 175 тыс чал. падатковага насельніцтва З дзяржаўных уладанняў былі Віцебская эканомія і 17 староståў, з якіх наибуйнейшыя Веліжскае, Усвяцкае і Езярышчанскае Узначальвалася ваяводам пры якім дзейнічала правінцыяльная канцылярыя Правінцыя скасавана у 1777 паводле «Устанаўленняў для кіравання губерняў Расійскай імперыі» (1775)

*Літ* Полн собр законов Российской империи Собр 1-е Т 19 № 14014, Жукович П Н Управление и суд в Западной России в царствование Екатерины II // Журн Мин-ва нар просвещения 1914 Ч 49, февр

*Я К Аншчанка*

**ВІЦЕБСКАЯ ПРЫВАТНАЯ ФЕЛЬЧАРСКА-АКУШЭРСКАЯ ШКОЛА.** Існавала ў Віцебску ў 1906—13 Засн. ўрачом У В Счасновічам. Для выкладання запрашаліся вопытныя ўрачы, акушэры-гінеколагі, якія спалучалі мед практыку з навуковай дзейнасцю Прагама навучання сярэдняга акушэрскага персаналу забяспечвала цесную сувязь тэарэтычных ведаў з практыкай Школа штогод выпускала 30—60 чал.

*В А Кульпановіч*

**ВІЦЕБСКАЯ РАБОЧАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ 1896—97,** нелегальная арг-цыя рабочых і рамеснікаў. Утворана на аснове прафесійных (цэхавых) стачачных кас. Галоўнай лічылі эканам барацьбу У 1896—97 двойчы збірала сродкі на карысць бастуючых рабочых Пецярбурга Восенню 1897 арг-цыю ўзначаліў *Віцебскі сацыял-дэмакратычны камітэт Бунда*

**ВІЦЕБСКАЯ РАТУША,** помнік грамадзянскай архітэктуры 16—18 ст у Віцебску. Размешчана ў цэнтры горада. Першая драўляная ратуша ў Віцебску пабудавана пасля надання яму магдэбургскага права ў 1597. За ўдзел жыхароў горада ў *Віцебскім паўстанні 162* супраць *Брэсцкай уніі 1596* і забойства уніяцкага полацкага архіепіскапа І Кун

цэвіча Віцебск пазбаўлены магдэбургскага права, а ратуша разабрана. Адбудавана ў 1644. На «Чарцяжы места Віцебска» (1664) змешчана першая графічная выява В р. Ратуша была прамавугольная ў плане, накрытая высокім 4-схільным дахам, завяршалася 8-граннай вартавой вежай з купалам і шпілем. Неаднаразова знішчалася пажарамі (1708, 1733, 1752) У 1775 пабудавана мураваная ратуша Спачатку была 2-павярховай прамавугольнай у плане (3-і паверх надбудаваны ў 1911) з 4-яруснай вежай у цэнтры гал фасада Гал фасад (да яго ў пач 20 ст прыбудаваны порцік) быў расчлянены прамавугольнымі аконнымі праемамі на 1-м і паўцыркульнымі — на 2-м і 3-м паверхах Ярусы вежы аздоблены пілястрамі, валютамі, раскрапаванымі карнізамі; на верхнім ярусе — гадзіннік (устаноўлены ў 1833) У падвале ратушы 18 ст. выяўлены рэшткі муроўкі 2-й пал 17 ст., якая, верагодна, з'яўляецца фрагментам гал. фасада будынка, паказанага на «Чарцяжы...». Другі паверх ратушы і яе завяршэнне былі з дрэва, што характэрна для архітэктуры Беларусі 17 і пазнейшых стагоддзяў. Гал фасад В. р арыентаваны на забрукаваную гандлевую плошчу, абкружаную з 3 бакоў жыллева-гандлевымі пабудовамі У канцы 18 — пач. 19 ст да бакавых фасадаў ратушы прыбудаваны 2-павярховыя мураваныя аб'емы На першых паверхах былі гандлевыя крамы, якія ўтваралі невял. ўнутраны дворык У 18 ст ў В. р. размяшчаліся палацыя, гал суд, 2-і дэпартамент, гаўптвахта, пажарны двор, у 19 ст — гар дума. Будынак рэстаўрыраваны ў 1913, 1944 і ў 1970-я гады. Цяпер тут *Віцебскі абласны краязнаўчы музей*

Даследаванні на тэр ратушы праводзілі ў сярэдзіне 1980-х гадоў В М Ляўко, арх.-археалагічныя назіранні ў ходзе рамонтна-рэстаўрацыйных работ — І М Чарняўскі і І А Цішкін У будынку ратушы і на прылеглай тэрыторыі знойдзены экземпляры каляровай кафлі, посуду, курыльныя люлькі, фрагмент пішчалі, мініяцюрная гарматасалютаўка (17 ст), выстралам якой суправаджаліся гар ўрачыстасці. Іл. гл. ў арт. *Архітэктура*

*Літ* Чарняўскі І, Цішкін І Віцебская ратуша // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі 1987 № 2 *І М Чарняўскі*

**ВІЦЕБСКАЯ ФЕ́ЛЬЧАРСКАЯ ШКО́ЛА.** Заснавана ў Віцебску ў 1871 пры Віцебскай бальніцы Прыказа грамадскай апекі. Закрыта пасля 1879 Тэрмін навучання 4 гады З'яўлялася ў значнай ступені агульнаадук. навучальнай установай. Прымаліся асобы, якія ўмелі чытаць і пісаць. Выкладаліся рус. і лац. мовы, арыфметыка, з спец. дысцыплін — догляд за хворымі, кровапусканне, воспапрышчэпліванне, кастапраўства, рэанімацыя, анатаміраванне, выдаленне зубоў і інш. Першы набор адбыўся ў пач 1872, першы выпуск — у 1875 (6 чал.) *В А Кульпановіч*

**ВІЦЕБСКАЯ ЦАРКВА́ ЗВЕСТАВА́НЯ,** Віцебская Благавешчанская царква, помнік стараж. архітэктуры Пабудавана ў 1-й пал — сярэдзіне 12 ст. ў Віцебску на левым беразе р Зах. Дзвіна на тэр. *Віцебскага Ніжняга замка.* Выцягнуты 3-нефавы 6-слуповы будынак з паўкруглымі апсідай і 2 нішамі ў тоўшчы ўсх сцяны Шырыня храма 11,1 м, даўжыня 18,2 м (з апсідай 21 м) У зах сцяне (таўшчыня каля 1,5 м) размяшчаліся ўсходы, якія вялі на хоры. Таўшчыня астатніх сцен каля 1,1 м. Сцены былі складзены ў тэхніцы дэкаратыўнай мяшанай муроўкі часаныя вапняковыя блокі чаргаваліся з радамі плінфы [памеры 3—3,7 × 19—20 × 27—29 см (асн. фармат), 2,8 × × 15 × 21 см і 6 × 27 × 30 см] мелі закамары, на якія абапіраўся дах Вонкавыя муры храма былі пакрыты вапняковай абмазкай, размаляванай белымі палоскамі шырыней 1,5 см, адпаведна памерам каменных блокаў. На тарцах і шырокіх баках плінфаў трапляюцца знакі і клеймы Фасады і інтэр'еры царквы былі ўпрыгожаны плоскімі аднаступеньчатымі лапаткамі Апсіду аздаблялі плоскія вертыкальныя цягі. Унутры царква была размалявана фрэскамі. Упершыню помнік даследаваў у канцы 19 ст. А. М. Паўлінаў (падрабязна апісаў муроўку 12 ст., склаў план храма і прапанаваў яго рэканструкцыю) У 1944 абмеры царквы зрабіў П Бараноўскі. Да 1961 сцены былі захоўваліся амаль на ўсю вышыню, у снеж. 1961 храм быў разбураны У 1977 рэшткі будынка законсерваваны. Раскопкі каля будынка праводзілі ў 1964 Г. В Штыхаў, у 1968 М. К Каргер. У 1982 рэшткі храма даследавалі А. А Трусаў, П. А. Рапапорт і Т. С. Бубенька Устаноўлена, што падлога складзена з невял. часаных камянёў, яе ўзровень падняты на 105 см вышэй за цокаль будынка Пад першапачатковай падлогай на глыбіні да 1 м знаходзіцца пласт вапнавай рошчыны з дамешкамі дробных камянёў, пад якім залягае культурны пласт 0,4—0,6 м з керамікай 11—1-й чвэрці 12 ст.

*Літ* Очерки по археологии Белоруссии Ч 2 Мн, 1972, Раппопорт П А Русская архитектура X—XIII вв Каг памятников Л, 1982, Трусов О А Памятники монументального зодчества Белоруссии XI—XVII вв Архит -археол анализ Мн, 1988 *А А Трусаў*

**ВІЦЕБСКАЯ ЭКАНО́МІЯ,** дзяржаўнае ўладанне (каралеўшчына) у ВКЛ у 17—18 ст. Упамінаецца з пач. 17 ст. як эканомія, якая здавалася ў службовы лен (уладанне, падараванае васалу за вайск. або адм. службу), на тэр. Віцебскага ваяводства. Кіравалі ваяводы Я Завіша (1600), Я. Ракоўскі (1614), Я Касцевіч (1621), С. Кішка (1633), С Сангушка (1638), Х Кішка (1641), П. Сапега (1655), У. Валовіч (1657), С. Валовіч (1663), У. Валовіч (1669), Я. Храпавіцкі (1683), Л. Пацей (1695), А. Крыспін (1697), К. Пацей (1712, 1730), М Агінскі (1731), І Салагуб (1753—72), які здаваў частку В. э. ў пацэсію (арэнду). Паводле інвентароў 1657 і 1667, складалася з 5 валасцей (Буева, Лемніцы, Лукішкі, Любашкава, Ужварцы), у якіх налічваліся 54 сялянскія дымы і 28 службаў з 3 пустымі фальваркамі. З сярэдзіны 17 ст. фальварак існаваў толькі ў воласці Лукішкі Сяляне плацілі грашовы аброк У сярэдзіне 18 ст шмат лясоў і сенакосаў В. э было захоплена суседнімі феадаламі У 1765 В. э падзялялася на Буеўскае, Віцебскае, Латыгольскае, Лемніцкае, Любашкаўскае, Узварыцкае войтаўствы і воласць Лукішкі, у якіх налічвалася 65 весак, 336 гаспадарак і 70 службаў У 1772 В. э была ўзята ў казну і лічылася дзярж. маемасцю, службы былі перайменаваны ў вёскі (2803 чал. абодвух полаў). У 1785 плошча В э складала 17 053 дзесяціны, з 1773 уваходзіла ў Віцебскую правінцыю, з 1777 — у Віцебскі і Суражскі паветы. У канцы 18 ст. большая частка В. э. падаравана ў вечнаспадчынную ўласнасць барону І Ф Ашу (Узварыцкае войтаўства), П І Бабарыкіну (частка Лемніцкай воласці), А. А Дэбальмен (фальварак Лукішкі і Буеўскае войтаўства).

*Літ* Витебская старина / Сост А П Сапунов Витебск, 1883 Т 1 С 353, 373—380, 431, Историко-юридические материалы Витебск, 1888 Вып 18 С 172, 1897 Вып 21 С 347, 1894 Вып 24 С 127, Похилевич Д Л Крестьяне Белоруссии и Литвы в XVI—XVIII вв Львов, 1957 С 150, Мелешко В И Очерки аграрной истории Восточной Белоруссии (вторая половина XVII—XVIII в) Мн, 1975 С 19, 47 *Я К Анішчанка*

**ВІЦЕБСКІ АБЛАСНЫ́ КРАЯЗНА́ЎЧЫ МУЗЕ́Й.** Заснаваны 12.11.1918 як Віцебскі губ музей на базе калекцый краязнаўца А. Р Брадоўскага і музея Віленскага вайсковага сходу, эвакуіраванага ў Віцебск у 1-ю сусв. вайну Адкрыты ў чэрв. 1919 Пазней папоўнены матэрыяламі А П. Сапунова, Е. Р. Раманава, прыватнага музея В. П. Федаровіча У 1927 аб'яднаны з *Віцебскім царкоўна-археалагічным музеем,* музеем *Віцебскай вучонай архіўнай камісіі,* з 1924 з'яўляўся аддзяленнем *Беларускага дзяржаўнага музея.* З 1929 Віцебскі культ.-гіст музей. У Вял. Айч. вайну частка каштоўных экспанатаў вывезена ў Саратаў, пакінутыя часткова разрабаваны ням.-фаш захопнікамі. У 1945 музей аднавіў работу. Экспазіцыя размяшчаецца ў б. гар ратушы (помнік архітэктуры 18 ст.). Пасля рэканструкцыі (1992) пл экспазіцыі больш за 2 тыс. м². На 1.1 1993 каля 125 тыс. экспанатаў, у т л. з археал. раскопак на Віцебшчыне вырабы з крэменю, косці, рогу, скураны абутак 12—13 ст., берасцяная грамата 13—14 ст, пісалы, упрыгожанні са шкла, сердаліку, бурштыну, кераміка ляпная і ганчарная, калекцыі нумізматычная (манеты 9—10 ст. краін Арабскага халіфата, ВКЛ, Расіі, Рэчы Паспалітай), сфрагістычная, стараж. зброі, старадрукаў 17—18 ст., прылады працы і сял побыту 18—20 ст Сярод экспанатаў матэрыялы

аб дзейнасці *Віцебскай арганізацыі РСДРП,* падзеях рэвалюцыі 1905—07, 1917 на Віцебшчыне. Значае месца займаюць экспанаты, прысвечаныя перыяду Вял. Айч вайны дзейнасці Віцебскага, Аршанскага, Лепельскага патрыятычных падполляў, Обальскай, Прошкаўскай, Асінторфскай падп. арг-цый, партыз руху на Віцебшчыне, вызваленню Віцебскай вобласці ад ням.-фаш. акупантаў у 1944. У музеі захоўваюцца творы жывапісу 19 — пач 20 ст. В Бялыніцкага-Бірулі, І Левітана, У Макоўскага, В. Паленава, І Рэпіна і інш., бел. мастакоў Ю Пэна, Ф. Гумена, Г Шутава, З. Азгура, А. Бембеля, А. Глебава. Самастойныя раздзелы экспазіцыі — музей-пакой П. М. Машэрава, героі Віцебскага падполля (б. турма СД). Філіялы музеі мастацкі, літаратурны, прыватных калекцый, музей-сядзіба І. Рэпіна.

*Л Д Кузьменка*

**ВІЦЕБСКІ ВЕРХНІ ЗАМАК.** Існаваў у сярэдневяковым *Віцебску* Размяшчаўся на левым беразе Віцьбы пры ўпадзенні яе ў Зах Дзвіну. Уключаў гарадзішча ранняга жалезнага веку (у пісьмовых крыніцах наз. гара Ламіха, дзядзінец Віцебска) і мыс Заходнядзвінскага ўзвышша, умацаваныя валам у 1130-я гады. Перыметр першапачатковага вала дасягаў 770 м, шырыня ў аснове 14—16 м, вышыня — 6 м Ядро насыпу было арміравана драўлянай субструкцыяй, выкананай у перакладной тэхніцы з 12 накатаў з бярвен Прамежкі паміж бярвенамі былі забіты вязкай глінай. Паміж гарадзішчам і мысам быў глыбокі прыродны чашападобны яр, які ў час буд-ва вала і пазней інтэнсіўна засыпаўся. Тут пастаянна збіраліся дажджавыя і снегавыя воды, у выніку чаго ўтварылася невялікае азярцо, вада з якога сцякала ў Віцьбу праз спецыяльнае прыстасаванне ў вале У 13—14 ст вал неаднаразова падсыпаўся, вышыня яго дасягала 8 м, шырыня ў аснове 36 м, знешні схіл быў забрукаваны і месцамі дадаткова ўмацаваны ўбітымі палямі. З боку Зах Дзвіны знешнюю паверхню вала накрываў метровы пласт шчыльна спрасаванай гліны, якая ахоўвала насып ад гідрадынамічных уздзеянняў і веснавых паводак. Наверсе вала былі камбінаваныя ўмацаванні з гародняў, паркану і драўляных вежаў. У сярэдзіне 14 ст па грэбені вала стаялі мураваныя абарончыя сцены і вежы з палявых часаных валуноў на вапне ў тэхніцы 3-слаевай («луской») муроўкі. Уніз сцены дасягалі 3-метровай таўшчыні, на 0,5 м былі ўпушчаны ў насып вала. Яны завяршаліся галерэяй насценнага бою і цаглянымі зубцамі прамавугольнай формы з байніцамі пасярэдзіне кожнага зубца. Цэгла была буйнапамерная, брусковая, стрэшкі над баявым ходам сцен — гонтавыя і з дахоўкі (фрагменты яе знойдзены ў час раскопак). У лініі абароны мураванага замка, акрамя сцен, было 5 вежаў, 2 брамы, 1 невялікая брама — «фортка», а з боку Зах Дзвіны — «палата мураваная» («палата Альгерда») з брусковай буйнапамернай цэглы, з профільнай цэглы былі выкладзены нервюры раннеготычнага скляпення і аркі «Хроніка Літоўская і Жамойцкая» прыпісвае будаўніцтва мураваных умацаванняў у Віцебску мясцовай князеўне Ульяне, жонцы вял. кн. ВКЛ Альгерда, якая нібыта закончыла гэту важную дзярж. справу ў 1351. Паколькі Альгерд стаў віцебскім князем у 1320, можна лічыць, што будаўніцтва вялося каля чвэрці стагоддзя. За гэты час мясцовыя дойлiды і навакольнае насельніцтва пры ўдзеле феад.-залежнага насельніцтва многіх рэгіёнаў ВКЛ узвялі мураваныя сцены не толькі В. В. з., але і *Віцебскага Ніжняга замка,* а таксама, магчыма, і мур на першапачатковым гарадзішчы Віцебска (на гары Ламіха), які ўзвышаўся над ваколіцай і дамінаваў над усёй забудовай абодвух замкаў На карысць гэтага сведчыць і «Спіс рускіх гарадоў далёкіх і блізкіх» канца 14 ст., дзе запісана «Вндбеск, трн стены камены. А река Вндба н Двина». На вяршыні Ламіхі з 1-й чвэрці 12 ст стаяў храм святога Міхаіла, пабудаваны ў тэхніцы мяшанай муроўкі (плінфа і часаныя даламітавыя пліты) з утопленым радам плінфы У інтэр'еры храма выкарыстоўваліся паліхромныя керамічныя пліткі падлогі, залатая кантарэль, заходнееўрапейскае аконнае шкло. Архіўныя крыніцы і археал. даследаванні дазваляюць характарызаваць асобныя вежы Верхняга замка. У плане яны былі, як правіла, квадратныя ($7\times\times7$ м і $8{,}8\times8{,}8$ м) вышынёй 10—12 м, з 2—3 ярусамі бою, выступалі за перыметр сцен. Праслы сцен, што злучалі вежы, на розных участках мелі розную вышыню з напольнага, паўн. боку — 7,5 м, на менш небяспечных участках — ад 4,5 да 5,75 м. Асноўны ўезд у В. В. з з Ніжняга замка ажыццяўляўся праз Вялікую праезную браму (памеры ў аснове $8{,}8\times9{,}9$ м). Паводле апісанняў аблог замка, праезд зачыняўся кавanымі варотамі 2-створкавай брамы, відаць, была пад'емная крата — герса. Яшчэ былі 2 выхады да р. Віцьбы сюды адкрывала дарогу брамка-«фортка» прыблізна на сярэдзіне паўн. сцяны замка і брама паблізу сутокаў Віцьбы з Зах Дзвіною.

Агульная даўжыня мураваных умацаванняў В. В. з., паводле звестак 1655, дасягала 623 м, значыць, яны дзесьці не супадалі з трасай папярэдняга вала З моманту сваей пабудовы мураваны замак перажыў каля 15 аблог з выкарыстаннем артылерыі. Паводле «Хронікі Літоўскай і Жамойцкай», у сярэдзіне 16 ст., асабліва пасля 3 аблог войскамі Івана IV Грознага ў час *Лівонскай вайны 1558—83,* ад мураваных умацаванняў засталіся «одна стена... на памятку» і моцна пашкоджаная «мураваная вежа» над Зах Дзвіною, таму замак не паспявалі адбудоўваць з каменю і цэглы, а ўмацоўвалі драўлянымі гароднямі, якія запаўняліся кашамі з зямлёй і каменнем. З дрэва надбудоўвалі разбураныя праслы мураваных сцен і вежаў. У час ваенных дзеянняў у замку звычайна размяшчаўся наемны гарнізон (пяхота і конніца) з валанцераў Германіі, Венгрыі, Італіі і інш. краін, мелася дастатковая зброя і ваенная амуніцыя. Паводле сведчання віцебскага ротмістра італьянца *А Гваньіні,* які тут служыў 18 гадоў, «гэты замак у параўнанні з усімі пагранічнымі замкамі і ва ўсім Вялікім княстве Літоўскім з'яўляецца надзейнейшай цвярдыняй супроць наездаў маскоўскіх» Згодна з даўняй традыцыяй жыхары Віцебска, аб'яднаныя ў гарадское апалчэнне і падзеленыя на «сотні», рэгулярна займаліся ваенна-абарончымі работамі ў замку — вартавалі замкавыя брамы, «на обламах в ночн кликалн», павінны былі будаваць «городнн н башнн н нх глиною мазати» «Сторожу городовую» абавязаны былі выконваць усе гараджане, уключаючы царкоўнікаў і людзей баярскіх, што жылі ў Віцебску і павеце. Конныя мяшчане, як і шляхта, прыцягваліся для ваеннай службы ў замку «Водлуг стародавнего звычаю» сяляне Усвяцкай і Азярышчанскай валасцей працавалі на ваенна-будаўнічых работах у замку «по 4 недели у год, 2 недели в лесе, а 2 недели в замку за вижом державцы Оболецкого и тому вижу, сходечи з роботы, мають дати 12 грошей» Раней сяляне плацілі яшчэ на замак па рублю грошай спецыяльнага падатку — «пасякершчыну» Дадаткова для «гарадавой работы» прыцягваліся жыхары іншых гарадоў і валасцей з Пасожжа, Ліды, Белiцы, Васілішак, Маркава, Пералома, Радуні, Браслава і Анікшт Кіраваў гэтымі прысланымі «тапарамі» мясцовы віцебскі гараднічы Сюды ж на В В. з. у спецыяльныя хлебныя свірны («шпіхлеры») з розных месцаў пастаўляўся ў запас хлеб. На абарону замка ў ваенны час прыцягваліся «сотні» апалчэнцаў. сотня Вышняга горада, Задунайская, Зарэцкая (Зарачанская), сотня змешаная — Зарэцкая і Верхняга горада, сотня «Зарэцкай Русі». З 42 пушкароў, якія ў сярэдзіне 17 ст. знаходзіліся ў Віцебску, значная частка была прыпісана да Верхняга замка, сярод іх Федар Букара, «Юрка-пушкар», Есін Анціп, Багдан Любка, Бучал, Федар Харук, Іван Бык Пушкарам у замку належалі «тры халупы» і «два свірны», дзе на выпадак аблогі зберагаўся запас хлеба. У цэйхгаузе, акрамя гармат і гакаўніц навальных, ляжаў розны рыштунак, захоўваўся металічны лом (жалезныя шыпы), аблomкі медных і бронзавых званоў для адлўкі гармат, 6,5 «штук» волава, 21 «капа» вялікіх і 10 «коп» меншых ядраў, 50 каменных ядраў, 14,5 «капы» куль мушкетных і ручнічных, запас крамянёў, кноту, 10,5 бочкі пораху, 5 не зусім спраўных гармат, 8 шматствольных шмыгаўніц, 85 гакаўніц, формы для адлўкі ядраў, іншы рыштунак. У 1640-х гадах на замкавым двары стаялі 52 дамы, з іх 34 належалі панам ваяводства, рэшта — заможным мяшчанам, пушкарам, кату, старцу Сорыцкай воласці і інш. людзям Напярэдадні *вайны Расіі з Рэчу Паспалітай 1654—67* у пач. 1654 сейм Рэчы Паспалітай са спазненнем прыняў рашэнне, паводле якога ўсе

віцебскія мяшчане, духоўныя і свецкія феадалы, жыхары ўсіх юрыдык горада і ўсё насельніцтва ваяводства ў выпадку ваеннай небяспекі абавязваліся станавіцца на абарону віцебскіх замкаў пад пагрозай страты ўсіх уладанняў і прывілеяў. Горад на 4 гады вызваляўся ад усіх падаткаў, акрамя чопавага. На абарончыя мэты выкарыстоўвалі лес з многіх разабраных гарадскіх будынкаў (кальвінскага збора, дома пастара, вучылішча кальвіністаў і багадзельні, дамоў і гаспадарчых пабудоў яўрэйскай абшчыны і інш.). Віцебскія яўрэі пабудавалі ў замку за свой кошт 46 сажняў астрогу з 2-ярусных гародняў, паставілі новую вежу, адрамантавалі адну з брам і пракапалі патайны ход да Зах. Дзвіны, на свае грошы наймалі цесляроў, паставілі дзесяткі металічных катлоў з вадой для тушэння пажараў, утрымлівалі конную стайню драгунаў Умацавана было і першапачатковае гарадзішча — гара Ламіха, якая згадваецца ў рускіх дакументах 17 ст. як «Верхний деревянный город» Такім чынам, у Верхнім замку былі 2 паясы абароны — мураваны, надбудаваны дрэвам, і драўляны З жыхароў Віцебска на тэрміновую рэпарацыю замка сабралі падатак — «трайную пагалоўшчыну». Аблога Віцебска рус. войскамі пачалася ў сярэдзіне жн. 1654 і працягвалася да 28 ліст., калі адбыўся генеральны штурм і быў узяты Верхні замак. Паводле попісу В. В. з, праведзенага ў сярэдзіне 17 ст., у лініі абароны стаяла 6 вежаў («Большие ворота, круглик, бычок деревянный малый, деревянная башня возле калитки, башня Роговая, бычок деревянный»). Да 1665—66 у Верхнім замку зрублена 3-ярусная Цемная праезная брама памерам 11×8,9 м, таўшчыней у 1 бервяно з гарматнымі і мушкетнымі баямі і абламамі, завершаная шатровым дахам з трапілам (каравульняй). Новая вежа «Шарамецеў круглік» была васьміграннная, 4-ярусная, сцены ніжняга яруса рублены ў 3 бервяны, сярэдняга — у 1 бервяно, а верхняга — у 2 бервяны. Вянчала вежу трапіла. На ўчастку абароны ўздоўж Віцьбы на старым мураваным бычку памерам 4,6×7,5 м была зрублена невялікая драўляная вежа, над шатровым дахам якой узвышалася трапіла, дзе, відаць, вісеў веставы звон на 9 пудоў вагою. Побач знаходзілася «фортка» да Віцьбы з праходам шырынёю каля 1,5 м, за ёю стаяла вежа Танкова памерам 6,4×6,4 м з трыма баямі і вуглавая васьміграная Падзвінская вежа («Бабарыкін круглік»). Яна была з трыма баямі, абламам і трапілам, вышыней ад зямлі да абламаў 12,8 м. Ад яе прасла сцяны паварочвала ўздоўж Зах Дзвіны да 2-ярусанай чатырохвугольнай Храпавіцкай вежы памерам 7,5×7,5 м. Далей стаяла разбураная мураваная палата 14 ст. Вежы злучаліся паміж сабой старымі мураванымі сценамі, на якіх месцамі зверху былі зрублены гародні і тарасы, а таксама ўчасткамі толькі драўляных 2-ярусных сцен. Шырыня сцен дасягала больш як 4 м, агульная даўжыня іх, паводле попісу 1665—66, была 665 м. На галерэю верхняга бою можна было трапіць праз «ганак» з лесвіцаю Узбраенне ў вежах было невялікае 4 паўтарачныя гарматы, 2 шмыгаўніцы, 12 зацінных пішчаляў. Рэшту артылерыі вывезлі ў Расію. Месцамі на сценах знаходзіліся бярвёны-«каткі» Водазабеспячэнне замка было дрэннае. У адным калодзежы вада была «нячыстая», а ў другім яе зусім не было «Паганая» вада, якая збіралася ў прыродным яры за кошт дажджоў і тання снегу, на піцце была непрыгодная і выкарыстоўвалася для тушэння пажараў. Дакументы адзначалі, што ў В. В. з «в осадное время емлют воду в калитку-фортку из Витбы реки». Абарона замка таксама апіралася на манастырскі і мяшчанскі ставы, зробленыя на Віцьбе, і на прыстасаваны да абароны 2-ярусны млын, які злучаўся праслам сцен з *Віцебскім Узгорскім замкам.* Многія вежы замка вянчаліся флюгерамі-«ветранікамі». У 1667 В В з быў вернуты Рэчы Паспалітай, у 1708 спалены паводле загаду Пятра І. Адноўлены да сярэдзіны 18 ст., канчаткова знішчаны ў выніку двух пажараў 1757, пасля іх разабраны. Фрагменты муроў сустракаюцца пры археал. даследаваннях.

*Літ* Ткачев М А Замки Белоруссии Мн, 1987, Чарняўская Т І Архітэктура Віцебска Мн, 1980 *М А Ткачоў*

**ВІЦЕБСКІ ГАРАДСКІ ГРАМАДСКІ КАМІТЭТ,** самадзейная грамадска-палітычная арганізацыя дэмакр. характару ў Віцебску пасля Лют. рэвалюцыі 1917 Дзейнічаў з 5(18) сак. да ліп 1917. Спалучаў функцыі часовага неафіцыйнага органа ўлады і грамадскай арг-цыі, садзейнічаў фарміраванню органаў Часовага ўрада ў горадзе і губерні. Створаны па ініцыятыве членаў гар. думы для падтрымкі грамадскага парадку. У сярэдзіне сак. 1917 у к-т уваходзілі 243 члены ад 48 арг-цый і ўстаноў, у т. л. 37 чал. ад Савета рабочых дэпутатаў, 20 ад карпарацыі чыноўнікаў, 19 ад польскіх, яўрэйскіх, латышскіх і літоўскіх нац. арг-цый, 16 ад гар думы, 15 ад купецтва, 15 ад старавераў, 8 ад кааператываў і інш Выбраны выканком складаўся з 59 чал, у прэзідыум выканкома ўваходзілі А. Валковіч (старшыня), Арансон (нам. старшыні), Тарле, Алонаў, Ражноўскі, Успенскі, Лузгін, Пісарэўскі У далейшым колькасны і персанальны склад

Збудаванні Віцебскага Верхняга замка (з «Чарцяжа» Віцебска 1664) Уверсе Вялікая праезная брама (злева), Міхайлаўская царква Унізе дом Горскага (злева), вежа «Бабарыкін круглік»

к-та і яго кіруючых органаў мяняўся У ідэйна-паліт плане ў к-це дамінавалі кадэты, меншавікі, бундаўцы і эсэры. Створана 6 секцый фінансавая, юрыдычная, міліцыйная, школьная, санітарна-гасп., антыалкагольная. К-т ажыццяўляў кіраванне горадам, распачаў раззбраенне паліцыі і стварэнне міліцыі, канфіскаваў архівы жандарскага ўпраўлення, браў удзел у рэарганізацыі судовых органаў, арганізацыі ўрадавых структур у горадзе і павеце 16(29) 3 1917 санкцыяніраваў рашэнне віцебскага Савета пра зняцце з пасады і арышт губ. камісара М. Л. Карташова. К-т пачаў рэарганізацыю харчовага апарату, кантраляваў працу хлебапякарняў, рэгуляваў цэны, забараніў вываз прадуктаў. Але гэта дзейнасць была непрадукцыйнай. Пасля выбрання 25—28.3(7—10.4).1917 губ. камісарыята, у склад якога ўвайшлі і прадстаўнікі грамадскага к-та, рамкі дзейнасці апошняга звузіліся. З удзелам к-та і Саветаў у маі 1917 створана часовая гарадская дума з удзелам прадстаўнікоў розных пластоў насельніцтва і грамадскіх арг-цый Старая цэнзавая дума, нягледзячы на патрабаванні к-та, не склала свае паўнамоцтвы, і да сярэдзіны ліп. 1917 у горадзе дзейнічалі 2 думы. У далейшым зацверджана «Палажэнне аб Часовым віцебскім гарадскім грамадскім камітэце», якое вызначыла яго паўнамоцтвы, склад, час дзейнасці, функцыі, структуру і кіруючыя органы, замацавала прадстаўніцтва ў к-це ўсіх класаў, пластоў і груп насельніцтва непасрэдна і праз грамадскія арг-цыі. З пашырэннем дзейнасці губ. камісарыята і яго структур, грамадскіх арг-цый камітэт ператвараўся ў бюракратычную арг-цыю. Яго намаганні ўмешвацца ў функцыі ўрадавых органаў выклікалі канфлікты паміж рознымі структурамі, сталі прычынай няўстойлівасці мясцовай улады.

*П К Башко*

**ВІЦЕБСКІ ГІСТПА́РТ**, камісія па вывучэнні гісторыі кампартыі і Кастр. рэвалюцыі пры Віцебскім губкоме РКП(б) Існаваў з пач. 1922 да сак 1924 Створаны на аснове пісьма ЦК РКП(б) «Усім абласкомам і губкомам РКП», у якім прапанавалася «неадкладна прыступіць да арганізацыі абласных і губернскіх гістпартаў» Узначальваў чл. губкома партыі С. М. *Крылоў*. Гал кірункамі работы камісіі былі абследаванне архіваў і выяўленне матэрыялаў па гісторыі рэв. барацьбы, збіранне і публікацыя ўспамінаў старых бальшавікоў і актыўных удзельнікаў рэв руху на Віцебшчыне. Асобныя матэрыялы друкаваліся ў спец раздзеле органа Віцебскага губкома РКП(б) і губпрафсаюза час «Коммунистический труд» В г выпусціў кнігу мемуараў Б. Д. Пінсана «Бальшавікі ў Віцебску» (1922) і зб. успамінаў, артыкулаў і матэрыялаў «Чырвоная быль» (1923) У зб. увайшлі ўспаміны ўдзельнікаў барацьбы за сав ўладу ў губерні Б. Браслава, Крылова, Я. Гоба і інш., матэрыялы пра рэв. рух працоўных у лют.— кастр. 1917 і ўстанаўленне сав. улады ў губерні. В. г. ліквідаваны ў сувязі з уваходам Віцебскай губ. ў склад БССР.

*Літ* Хроника бюро Истпарта Витебское бюро // Пролетарская революция 1922 № 8, Михнюк В Н Становление и развитие исторической науки Советской Белоруссии (1919—1941 гг) Мн., 1985

*У М Міхнюк*

**ВІЦЕБСКІ ДЗЯРЖА́ЎНЫ ПЕДАГАГІ́ЧНЫ ІНСТЫТУ́Т.** Заснаваны ў 1918 на базе *Віцебскага настаўніцкага інстытута.* У 1919 перайменаваны ў інстытут нар. адукацыі, у 1923 аб'яднаны з БДУ. У 1930 адноўлены У 1934—92 — імя С. М. Кірава. Мае факультэты матэматычны, фізічны, біелага-хімічны, мастацка-графічны, філалагічны, педагогікі і методыкі пачатковага навучання, фіз. выхавання, падрыхтоўчае аддзяленне; каля 6 тыс студэнтаў. На 30 кафедрах каля 426 выкладчыкаў, у т. л. 18 праф. і дактароў навук, 320 дацэнтаў і канд. навук. Навучанне дзеннае і завочнае. Ін-т мае батанічны сад, н.-д. лабараторыю па рэканструкцыі і ахове жывельнага свету Бел Паазер'я, карцінную галерэю, музеі гісторыі ін-та, П. М. *Машэрава*, літ., біялогіі Ін-т выдаваў «Ученые записки» (1936—58).

**ВІЦЕБСКІ ЕЗУІ́ЦКІ КАЛЕ́ГІУМ.** Дзейнічаў у Віцебску ў 17 ст.— 1820. Езуіты пасяліліся ў Віцебску ў 1639, калі смаленскі ваявода Аляксандр Корвін Гансеўскі падарыў ім прыстань на Зах. Дзвіне і землі (1 тыс кв. міль) на Смаленшчыне. Віцебскім езуітам матэрыяльна дапамагаў *Аршанскі езуіцкі калегіум,* які перадаў ім ва ўласнасць маентак Добрына, а таксама значныя грашовыя сродкі і культавае начынне. У 1641 жонка смаленскага ваяводы Паца купіла для віцебскіх езуітаў маентак Камунева, а падстолі віцебскага ваяводы Андрэй Гурка ахвяраваў ім палавіну свайго надзелу разам з будынкамі ў Віцебску. У 1649 езуіты пабудавалі ў Віцебску касцел, пачала працаваць езуіцкая школа, з 1676 дзейнічала музычная бурса У канцы 17 ст. ўладанні калегіума складаліся з 7 фальваркаў і 24 весак У ліст. 1654, у час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай, горад захапілі рус. войскі Езуіты былі ўзяты ў палон і высланы ў Расію на пасяленне. У час Паўночнай вайны 1700—21 па загадзе Пятра I 28.9. 1708 рускія спалілі Віцебск, згарэлі і будынкі калегіума. Новыя памяшканні збудаваны ў 1731 на сродкі гарадскога кашталяна Марцыяна Агінскага і віцебскай шляхты. З 1756 пры калегіуме дзейнічала семінарыя для дзяцей збяднелай шляхты, друкарня, аптэка (з 1697) Выкладчыкі калегіума заснавалі тэатр. Дзейнасць езуітаў спынена паводле ўказа Аляксандра I ад 13.3.1820 аб высылцы езуітаў з Расійскай імперыі.

*Літ* Сапунов А Витебская старина Т 1 Витебск, 1883, Załęski S Jezuici w Polsce. Krakow, 1908, Windakiewicz S Teatr kollegjow jezuickich w dawnej Polsce Krakow, 1922 S 3

*Т Б Бінова*

**ВІЦЕБСКІ КААЛІЦЫ́ЙНЫ КАМІТЭ́Т**, Віцебская кааліцыйная камісія, орган кіраўніцтва рэв. барацьбой працоўных Віцебска ў час Кастр. усерасійскай паліт. стачкі і Снеж. ўзброенага паўстання ў Маскве 1905. Утвораны з прадстаўнікоў мясцовых арг-цый Бунда і РСДРП. Арганізаваў міліцыю; падтрымліваў парадак у горадзе, некалькі дзен кантраляваў чыг. вузел, выдаваў адозвы. 6(19) і 13(26) снеж. распаўсюдзіў лістоўкі, у якіх заклікаў грамадзян да ўзбр. барацьбы. 8—9(21—22) снеж. спрабаваў арганізаваць забастоўку рабочых чыг станцыі і прамысл. прадпрыемстваў. Выконваў некаторыя функцыі Савета рабочых дэпутатаў. Пасля паражэння Снеж ўзбр. паўстання ў Маскве паліт. стачка ў Віцебску спынена.

**ВІ́ЦЕБСКІ «КАЦЁЛ»**, акружэнне войскамі 3-га Бел. і 1-га Прыбалтыйскага франтоў у ходзе *Віцебска-Аршанскай аперацыі 1944* пад Віцебскам 5 ням. дывізій у час Вял. Айч. вайны. 23.6.1944 войскі 43-й арміі 1-га Прыбалт. фронту прарвалі абарону ворага на ПнЗ ад Віцебска, войскі 39-й арміі 3-га Бел фронту — на ПдУ ад горада, абышлі Віцебск з Пд і ПдЗ і ў ноч на 25.6 1944 злучыліся каля в. Гняздзілавічы (цяпер Гняздзілава) Бешанковіцкага р-на, замкнуўшы акружэнне віцебскай групоўкі праціўніка. У «кацел» трапіла 5 дывізій 3-й ням. танк арміі, якія да 27 чэрв разгромлены. 26 чэрв. вызвалены Віцебск. Праціўнік страціў каля 20 тыс салдат і афіцэраў забітымі і больш за 10 тыс. палоннымі. У в. Гняздзілава ў гонар сав. воінаў пастаўлена стэла.

*Літ* Освобождение Белоруссии, 1944. 2 изд М , 1974

**ВІ́ЦЕБСКІ ЛЕ́ТАПІС**, Dzieje miasta Witebska, помнік гарадскога летапісання Беларусі 18 ст. Складзены ў 1768 на польскай мове жыхаром Віцебска С. Аверкам на аснове летапісу М. Панцырнага (звесткі датаваны 896—1709), каротких гіст запісаў Чарноўскіх (1601—33) і Г. Аверкі (1733—57), а таксама матэрыялаў, сабраных аўтарам Твор кампіляцыйны, кампазіцыйна рыхлы, яго часткі не аб'яднаны ў цэласны звод. Складаецца пераважна з кароткіх сухіх пагадовых запісаў-паведамленняў, месцамі размешчаных не ў строга храналагічнай паслядоўнасці, хаатычна Звесткі па рус., польскай, сусветнай і літоўска-бел. гісторыі запазычаны пераважна з польскіх хронік і хранографаў і змяшчаюць шмат розных недакладнасцей. Найбольш каштоўныя арыгінальныя звесткі па гісторыі Беларусі і Віцебска, асабліва пра ваенна-паліт падзеі канца 17 — пач. 18 ст У канцы летапісу змешчаны спісы членаў віцебскага магістрата 1597, віцебскіх ваявод за 1516—1753 і інш. гіст.-дакументальныя матэрыялы. Упершыню апублікаваны А. П. Сапуновым у *«Віцебскай даўніне»* (т. 1, 1883) у перакладзе на рус. мову. Рукапіс захоўваецца ў Публічнай бібліятэцы ў Санкт-Пецярбургу.

*Публ* Сборник летописей, относящихся к истории Южной и Западной Руси Киев, 1888 С 213—236, Полное собрание русских летописей М , 1975 Т 32 С 193—205.

*Літ* Улащик Н Н Введение в изучение

белорусско-литовского летописания. М., 1985. С. 218—231. *В. А. Чамярыцкі*

**ВІ́ЦЕБСКІ МАНЕ́ТНЫ СКАРБ.** Знойдзены ў Віцебску ў 1926. У гліняным гаршку змяшчаліся 792 грошы пражскія сярэдзіны 14 — пач. 15 ст. Сярод манет Вацлава IV [1378—1419] 2 экз. з кантрамаркай г. Аўсбурга, 1 — Рэгенсбурга. Грош часоў праўлення Іржы Подэбрада [1458—71] — адзіная знаходка на тэр. Беларусі. Большая частка скарбу (767 манет, 2000 г) захоўвалася ў Віцебскім аддзяленні Бел. дзярж. музея, астатняя — у Бел. дзярж. музеі (г. Мінск). Пасля 1941 лес скарбу невядомы.

*Літ.:* Харламповіч П. В. Манетныя скарбы, знойдзеныя ў Беларусі, у зборах Беларускага дзяржаўнага музея // Гіст.-археал. зб. Мн., 1927. № 1; Фасмер Р. Р. Список монетных находок, зарегистрированных секцией нумизматики и глиптики Академии истории материальной культуры в 1920—1925 гг. // Сообщения Государственной Академии истории материальной культуры. Л., 1926—29. № 1—2. *І. Ф. Масько*

**ВІ́ЦЕБСКІ НАСТА́ЎНІЦКІ ІНСТЫТУ́Т,** 1) спецыяльная навуч. ўстанова ў Віцебску для падрыхтоўкі настаўнікаў няпоўнай сярэдняй школы у 1910—18. Размяшчаўся ў б. казармах Ленкаранскага кавалерыйскага палка. Дырэктар К. І. *Ціхамараў*. У ін-т прымаліся асобы мужч. полу праваслаўнага веравызнання, якія скончылі настаўніцкія семінарыі і мелі 2-гадовы пед. стаж. Штогадовы набор — 35 чал. Тэрмін навучання 3 гады. Выкладаліся агульнаадук. прадметы, а таксама педагогіка, псіхалогія, школазнаўства, методыка выкладання мовы, матэматыкі, прыродазнаўства. Былі абсталяваны фізіка-матэматычны, гісторыка-геаграфічны і прыродазнаўча-хімічны кабінеты, меў бібліятэку (каля 3 тыс. тамоў). Пры ін-це існавала вышэйшае пачатковае вучылішча, дзе студэнты праходзілі практыку. Працавалі курсы настаўнікаў ручной працы, фізвыхавання, чыстапісання, рус. мовы і інш. Паспяваючым студэнтам выплачвалася стыпендыя, якую яны павінны былі адпрацаваць пасля заканчэння ін-та. Выпускнікі ін-та атрымлівалі няпоўную вышэйшую адукацыю, грунтоўную пед. і метадычную падрыхтоўку. Ін-т зрабіў 5 выпускаў, падрыхтаваў каля 150 настаўнікаў. Пераўтвораны ў *Віцебскі дзяржаўны педагагічны інстытут.*

2) Навуч. ўстанова пры педінстытуце для падрыхтоўкі настаўнікаў 7-гадовай школы. Існаваў у Віцебску ў 1935—55 (акрамя перыяду Вял. Айч. вайны). Тэрмін навучання 2 гады. Прымаліся асобы з сярэдняй агульнай або пед. адукацыяй. Дырэктарам настаўніцкага ін-та з'яўляўся рэктар педінстытута. Спачатку дзейнічала толькі гіст. аддзяленне, у 1937 яно пераўтворана ў гісторыка-філалагічнае і адкрыты фізікаматэматычнае і прыродазнаўча-геаграфічнае аддзяленні. У даваенны час ін-т падрыхтаваў каля 300, пасля вайны каля 2 тыс. выкладчыкаў гісторыі, бел. і рус. мовы, фізікі, матэматыкі, прыродазнаўства, геаграфіі. Аб'яднаны з Віцебскім педінстытутам. *С. В. Сялицкі*

**ВІ́ЦЕБСКІ НІ́ЖНІ ЗА́МАК.** Існаваў у сярэдневяковым *Віцебску.* Займаў адносна роўную пляцоўку берагавога плато складанай канфігурацыі, месцамі прарэзаную глыбокімі прыроднымі ярамі. Пл. 6 га. З усіх бакоў абмежаваны р. Зах. Дзвіна і Віцьба і ручаем Дунай, які дзякуючы плаціне з паўд. боку ўтвараў вялікі стаў. У эпоху Кіеўскай Русі меў розныя тыпы ўмацаванняў — вастракол, гародні, земляны вал, на асобных участках штучныя ўмацаванні зусім адсутнічалі. У сярэдзіне 14 ст., калі Віцебск належаў жонцы вял. кн. ВКЛ Альгерда княгіні Ульяне, ён быў умацаваны муравАнымі сценамі і вежамі. Паводле летапісу, Ульяна Віцебск «муром округ обвела з баштами вынеслыми и вежами». Працягласць мураванага абарончага пояса Ніжняга замка дасягала 1750 м. У час аблог 1393, 1396, 1435, 1502, 1516, 1519, 1534, 1535, 1536, з выкарыстаннем артылерыі, бамбардзіровак войскам Івана IV Грознага ў 1562, 1563 і 1568 у час *Лівонскай вайны 1558—83* ад сцен замка засталіся руіны і асобныя ўчасткі вежаў, якія рамантаваліся каменем і дрэвам. На падставе археал. даследаванняў і аналізу пісьмовых крыніц Ніжні замак можна рэканструяваць у выглядзе магутнага комплексу абарончых збудаванняў з 7 мураванымі вежамі-брамамі Заручайскай, Завіцебнай (Рынкавай) і Задунайскай, невялікай мураванай брамкай «форта Жыдоўская», якая адкрывала шлях да Зах. Дзвіны, і трох вежаў. Адна з іх ва ўсх. частцы ў плане была прамавугольная памерам 7×8,15 м, таўшчыня прасла каменнай сцяны, якая прымыкала да вежы, 1,55 м. Муроўка В. Н. з. складалася з валуноў на вапне з выкарыстаннем буйнапамернай цэглы. Паводле інвентара замка ад 7.9.1638, моцна разбураны В. Н. з. надбудоўваўся з дрэва: рубіліся вярхі на вежах, на ўчастках, дзе праслы сцен былі зруйнаваны да зямлі, ставіўся падвойны штакет або «ізбіцы»-гародні. Брама Заручайская, пакрытая дранцамі, стаяла на паўд.-зах. краі замка і адкрывала ўезд у горад з паўд. боку, мела новы пад'емны мост-«узвод». Завіцебная (Рынкавая) брама была зруйнавана амаль цалкам, таму яе аднавілі невысокай, з дрэва. Яна адкрывала дарогу на мост цераз Віцьбу да брамы Маляванай (Вечавой) *Віцебскага Узгорскага замка.* Перад Задунайскай брамай, якая таксама надбудоўвалася з

Збудаванні **Віцебскага Ніжняга замка** (з «Чарцяжа» Віцебска 1664). Уверсе: царква Звеставання (злева), дом Шапкі. Унізе: Аляксееўскі манастыр (злева), вежа «Валконскі круглік».

дрэва, быў мост, перакінуты цераз ручай Дунай Напалову цэлай была «форта Жыдоўская», бо ў час аблог рэдка падвяргалася абстрэлу. Становішча парубежнага горада прымусіла жыхароў Віцебска і яго магістрат пераглядзець у сярэдзіне 17 ст усю структуру абароны горада Ніжні замак быў цалкам збудаваны з дрэва, замест 7 вежаў у замку зрабілі 14 да 4 існаваўшых дабавілся Гуркова, Засельная, Гуркова малая, Княжая, Сапежанкава, Прасільная, Бык, вежа з падлазам, Узводная, Падлазная. Вежы былі злучаны сценамі-тарасамі. Працягласць лініі ўмацаванняў скарацілася да 922 м У час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* заняты рус. войскам восенню 1654, пасля працяглых штурмаў быў істотна рэканструяваны Паводле інвентара 1665—66, замест Завіцебнай (Рынкавай) брамы паявілася Вялікая праезная брама (Валконскі круглік). Яна была 3-ярусная, 8-гранная, з балконам над першым паверхам, абламамі і трапілам з брусоў. На У ад яе стаяла невялікая 2-ярусная вежа Напрудная. На мысе над ручаем Дунай зрубілі 8-гранны 3-ярусны Мяшчанскі круглік з трапілам наверсе. Задунайская брама была перароблена на фортку. Другі мыс над Дунаем заняў Духаўскі круглік, амаль копія Мяшчанскага кругліка. Затым прасла сцяны паварочвала пад прамым вуглом на З і сцяна ішла ўздоўж замкавага става Тут размяшчаліся адна за адной 5 падобных вежаў Княжая, Тарапецкая (Сапежанкава), Дамініканская (Прасільная), Швыкоўская, Старасельская (Падлазная). Усе яны былі чатырохвугольныя ў плане, 3-ярусныя з абламамі, некаторыя з трапіламі. Заручайская праезная брама мела крыху большыя памеры, але канструкцыйна была такая ж. Ад брамы прасла сцяны паварочвала на Пн і сцяна ішла ўздоўж берага Зах Дзвіны, дзе стаялі невялікая вежа-бычок Сярэдняя і Падзвінская («Жыдоўская») вежа-брама, чатырохвугольная 3-ярусная з абламамі і дахам з дранц. Праслам з гародняў яна злучалася з умацаваннямі *Віцебскага Верхняга замка* Сцены 2-ярусных гародняў былі зрублены ў 1—2 бервяны, такую ж таўшчыню мелі вежы, што стаялі з боку поля. Пярэднія іх сценкі ўмацоўваліся і мелі таўшчыню ў 2—3 бервяны. Галоўнай воссю замка была Вялікая вуліца, якая пачыналася ад Заручайскай брамы, ішла праз увесь Вялікі пасад на У да Задунайскай брамы. Ад яе адыходзілі вуліцы да царквы Звеставання (Благавешчанскай) і да Вялікай праезнай вежы. Існавала некалькі завулкаў На тэр. замка размяшчаліся храмы (царква Звеставання і Аляксееўскі манастыр), дамы багатых мяшчан (дом Шапкі і дом Агінскага) У час археал даследаванняў адкрыта некалькі насцілаў Вялікай вуліцы шырынёю 4—5 м на лагах з бярвен

Подступы да абарончых сцен і вежаў са знешняга боку дадаткова ўмацоўвалі штучнымі драўлянымі агароджамі. Значную ролю ў абароне В. Н. з. адыгрывала сістэма ставоў — замкавага (даўжыня 220 м, шырыня 15—30 сажняў, глыбіня 1 сажань з локцем), а таксама манастырскага і мяшчанскага на р. Віцьба. Берагі ставоў дадаткова ўмацоўвалі «честиком и рогатками» Зімой на ставах уздоўж берагоў лед абколвалі для бяспекі і страхоўкі ад раптоўнага нападу. Мост цераз Віцьбу, які вёў ва Узгорскі замак, замест парэнчаў меў абарончую сцяну з бярвен даўжыней 21 сажань з чвэрцю, вышыней да абламаў 1,5 сажня і абламы ў 6 вянкоў — фактычна 3 ярусы бою Віцебскія мяшчане вартавалі «местские брамы», «на обламах в ночи кликали», павінны былі будаваць «городни и башни и их глиною мазати» Вартавая служба («сторожа городовая») была абавязкам усіх жыхароў пасадаў, уключаючы царкоўнікаў і людзей баярскіх, нават калі яны жылі ў межах Віцебскага павета. Да рамонту і ваенна-будаўнічых работ прыцягваліся «водлуг стародавнего звычаю» жыхары Усвяцкай і Азярышчанскай валасцей, а таксама Ліды, Белıцы, Васілішак, Маркава, Пералома, Радуні, Браслава, Анікшт і Пасожжа, што працавалі «топором» У ваенных адносінах жыхары В Н. з. аб'ядноўваліся ў 2 «сотні» — Падзвінскую і Епіскапскую («Уладычную»). Існавалі таксама асобныя групы мяшчан, што неслі конную службу (гл *Віцебская конныя мяшчане*), і «рогатинннкн», якія пастаўлялі на патрэбу абароны вял. коп'і — рагаціны Гараджане былі ўзброены лукамі са стрэламі, арбалетамі, ручніцамі, гакаўніцамі, бярдышамі, алебардамі, сякерамі, булавамі. У вежах замка стаялі гарматы і гакаўніцы. Замак не раз моцна цярпеў ад пажараў у час ваенных дзеянняў і ў мірны час, напр. у 1614 і 1626, у верасні 1708 спалены карным атрадам калмыкаў на чале з каштаиам рус. арміі Салаўёвым. Пасля аднаўлення канчаткова знік пасля пажару 1752 і двух пажараў 1757.

*Літ* Ткачев М А Замки Белоруссии Мн., 1987 С 119—135, Чарняўская Т І Архітэктура Віцебска Мн, 1980 С 15—27 *М А Ткачоў*

**ВІЦЕБСКІ ПАВЕТ.** Існаваў на Беларусі з 14 ст. да 1924. Утвораны ў канцы 14 ст пасля скасавання *Віцебскага княства.* Тэрыторыя В. п. складалася з 2 асн частак стараж. баярскіх вотчын і княжацкіх двароў, якія размяшчаліся гал. ч. на З, У і Пд ад Віцебска на адлегласці каля 20—30 км, і больш аддаленых валасцей [Азярышча, Бруса, Дрэчылукі, Мікуліна, Усвят (Усвяты) і інш.]. Апошнія былі заселены сялянамі-*данниками* і даваліся на 1—2 гады ў кіраванне па чарзе віцебскім баярам Княжацкімі дварамі, відаць, здаўна былі Выдрэя, Лемніца (Ілемніца), Лужасна, Любашкаў, якія ў 16 ст і пазней з'яўляліся велікакняжацкай уласнасцю. Шматлікія баярскія вотчыны (у 15—16 ст сярод іх упамінаюцца Бялынавічы, *Вымна,* Глазамічы, КарамІды, Пагосцішча, Старое Сяло, Тухачова, Фальковічы, Хоцімля і інш ) належалі прадстаўнікам 20—30 родаў мясц. паходжання (Алфяровічам, Буевічам, Герасімовічам, Гуркам-Рамейкам, Дашковічам, Мастытычам, Шапкам і інш.) ці раздаваліся вял. князямі служылым князям (напр., маентак Тулава трапіў да кн. Жылінскіх, селы на мяжы з Полацкім пав.— да кн. Глінскіх). На працягу 15 ст. шэраг ускраінных валасцей В. п таксама перайшлі ва ўласнасць князёў і паноў і т. ч. выйшлі з-пад улады віцебскага намесніка; валасці Мікулінская трапіла да кн. Асавіцкіх, Дрэчылукі — да кн. Друцкіх-Бабічаў, *Астроўна* — да кн Андрэя Уладзіміравіча, потым да Сапегаў, Обаль — да кн Друцкіх-Прыхабскіх, Храпавіцкая — да паноў Храпавіцкіх У 2-й пал. 15 ст вял валасці Азярышча і Усвяты перайшлі ў непасрэднае падпарадкаванне вял князя Астатняя частка В п (баярскія вотчыны і валасці) належала да юрысдыкцыі намесніка У розны час гэту пасаду займалі Румбольд Валімунтавіч (1422), кн. Васіль Друцкі-Красны (1431), Нац Гінвілавіч (1452), Іван Гойцавіч (1452—54), М Неміровіч (1466—69), І Хадкевіч (каля 1476), І Ільініч (1482), кн І. Ю. Заслаўскі (1492), кн М. І. Заслаўскі (1494—95), С. Глябовіч (1496—1501), Ю. Глябовіч (1503—08) У 1508 утворана *Віцебскае ваяводства,* куды ўвайшоў і В. п. Функцыі віцебскага намесніка перайшлі да ваяводы, якога замяшчаў падваявода. У 1514 паўн.-ўсх. частка В. п. (валасці Веліж і Жыжэц) адышла да Маскоўскай дзяржавы (Веліж вернуты ў 1582 пасля Лівонскай вайны 1558—83). Пасля адм. рэформы ВКЛ 1565—66 В. п., як і інш паветы ВКЛ, атрымаў удакладненыя межы. У яго зноў увайшлі ўсе княжацкія і панскія ўладанні, дзярж валасці Азярышча і Усвят (Усвяты), а таксама маентак *Сянно,* які ў пач 16 ст. вылучыўся з Аболецкага пав. Віцебскага ваяв Былі ўведзены новыя службовыя пасады. кашталян, суддзя земскі з падсудкам і пісарам, суддзя гродскі з пісарам, харунжы, падкаморы і інш. Уся шляхта павета была ўраўнавана ў правах і атрымала самакіраванне — павятовы соймік У час Лівонскай вайны на тэр. маентка Дрэчылукі ў 1563 пабудаваны дзярж. *Суражскі замак,* які разам са старымі Азярышчанскім і Усвяцкім замкамі меў важнае абарончае значэнне. На тэр В. п. здаўна існаваў праваслаўны Маркаў (Маркаўскі) манастыр (на правым беразе Зах Дзвіны ніжэй Віцебска). У 16—18 ст найбуйнейшымі землеўладальнікамі павета з'яўляліся паны Сапегі (Астроўна, Тухачоў, пазней Дрэчылукі), кн Сангушкі (Госьмір, Обаль), Агінскія (Мікуліна, Лезна, пазней Веляшковічы і Марцыянаў). У В. п былі заснаваны дзярж і прыватныя мястэчкі Азярышча, Веліж, *Гарадок,* Калышкі, *Лезна,* Мікуліна, Соржыца (Сорыца), Сянно, Усвяты, Янавічы. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) В п. у складзе Расійскай імперыі з 1772 у Пскоўскай, з 1776 у Полацкай, з 1796 у Беларускай, з 1802 у Віцебскай губ У гэты перыяд тэр В. п. была значна паменшана з яго вылучаны Веліжскі, Гарадоцкі і Суражскі пав., паўд. частка ўвайшла ў Бабінавіцкі

пав., паўд.-заходняя — у Сенненскі; тэр. Бабінавіцкага пав. ў 1840 далучана да Аршанскага пав. У 1866 тэр. Суражскага пав. падзелена паміж В. п. і Веліжскім пав. З гэтага часу В. п. набыў межы, у якіх заставаўся да 1918. З 1861 В. п. падзяляўся на 15 валасцей: Бабініцкая, Веляшковіцкая, Вымнянская, Вярхоўская, Жаробыцкая, Каралёўская, Курынская, Лескавіцкая, Лосвідская, Мішкаўская, Старасельская, Сялюцкая, Храпавіцкая, Шчэрбінская і Янавіцкая; у складзе павета акрамя павятовага г. *Віцебск* былі заштатны г. *Сураж,* мястэчкі Калышкі і Янавічы, Маркаўскі і Тадулінскі манастыры, 1967 сельскіх пасяленняў. У 1897 тэр. павета 2861,1 кв. вярсты, насельніцтва 177 066 чал., у т. л. беларусы складалі 51 %, яўрэі — 22 %, рускія — 20 %, палякі — 3 %, латышы — 2 %. У сак. 1918 да В. п. далучаны Лаўжанская і Міхайлаўшчынская вол. Полацкага пав. З абвяшчэннем Беларускай ССР (1.1.1919) В. п. увайшоў у яе склад. З утварэннем Літоўска-Беларускай ССР (лют. 1919) павет у складзе Віцебскай губ. адышоў да РСФСР. У крас. 1919 у В. п. уключаны Астровенская вол. Сенненскага пав., у вер.— Высачанская, Дабрамысленская, Калышанская, Лёзненская і Серакаратнянская вол. Аршанскага пав. Да 1920 у В. п. уваходзілі 23 воласці: Астровенская, Бабініцкая, Веляшковіцкая, Вымнянская, Высачанская, Вярхоўская, Дабрамысленская, Жаробыцкая, Калышанская, Каралёўская, Курынская, Лескавіцкая, Лёзненская, Лавожская (Лаўжанская), Лосвідская, Міхайлаўшчынская, Мішкаўская, Серакаратнянская, Старасельская, Сялюцкая, Храпа-

віцкая, Шчэрбінская і Янавіцкая. 15.2. 1923 да В. п. далучаны Андрэеўская вол. Полацкага пав., Латыгаўская, Машканская і Пустынская вол. скасаванага Сенненскага пав., Болецкая, Бяскатаўская, Віраўлянская, Вайханская, Вышадская, Мішневіцкая, Паташанская і Селішчанская вол. скасаванага Гарадоцкага пав. Пасля ўзбуйнення валасцей (1923) у складзе В п засталося 15 валасцей. Астровенская, Высачанская, Вышадская, Гарадоцкая, Дабрамысленская, Каменская, Каралеўская, Кузняцоўская, Лавожская (Лаўжанская), Лезненская, Сакольнікаўская, Селішчанская, Сенненская, Унішэўская і Храпавіцкая. 3.3.1924 тэр. павета ў межах адм.-тэр. падзелу 1920 вернута ў склад БССР. 20.6.1924 да В. п. далучаны Бешанковіцкая, Ульянавіцкая і Чашніцкая вол. скасаванага Бачэйкаўскага пав. 17.7.1924 В. п. скасаваны. Яго тэрыторыя ўвайшла ў *Віцебскую акругу,* акрамя Серакаратнянскай вол., якая была ўключана ў *Аршанскую акругу.*

*Літ* Административно-территориальное устройство БССР Справ Т 1 (1917—1941 гг ) Мн , 1985

*М І Камінскі, В Л Насевіч*

**ВІ́ЦЕБСКІ ПАДПО́ЛЬНЫ АБКО́М КП(б)Б** у Вялікую Айчынную вайну. Створаны ЦК КП(б)Б і працаваў пад яго кіраўніцтвам з 8.3.1942 да ліп. 1944. Дзейнічаў на тэр. Віцебскай вобл. Узначальваў падп. Віцебскі гарком КП(б)Б і 20 райкомаў [гл. *Раенныя падпольныя камітэты КП(б)Б*], якія аб'ядноўвалі 198 пярвічных парт. арг-цый, 3800 камуністаў у партызанскіх фарміраваннях. 15 райкомаў партыі выдавалі газеты Кіраваў дзейнасцю 39 партыз. брыгад на тэр вобласці. Накіроўваў работу *Віцебскага падпольнага абкома ЛКСМБ,* Аршанскага, Асвейскага, Асінторфскага, Віцебскага, Забор'еўскага, Лепельскага раеннага, Межаўскага, Обальскага, Полацкага раеннага, Прошкаўскага, Расонскага, Сакалішчанскага, Сельніцка-Краснапольскага, Сімакоўскага, Ушацкага, Чашніцкага патрыятычнага і камсамольскага падполля. Сакратары абкома: І. А. Стулаў (1-ы сакратар), Я А. *Жылянін* (з 23.4.1942), І. Б. *Пазнякоў* (з 1.11.1942), М. І. *Пліс* (з 7.4.1943); члены І. М. Рабцаў (да 5.9.1942), В. І. Лузгін (да чэрв. 1944), М. П. *Шмыроў* (18.9.1943 — чэрв. 1944), С. В. Юрын (да 5.9.1942), В. Я Каган (1.11.1942 — 8.2.1943). Базіраваўся ў прыфрантавой паласе на неакупіраванай тэр. Смаленскай вобл. ў раене т. зв. *Віцебскіх «варот».* Друкаваны орган — газ. «Віцебскі рабочы».

Для аператыўнага кіраўніцтва парт. падполлем і партыз. рухам абком КП(б)Б падзяліў вобласць на 4 зоны. Аршанскую (адказны арганізатар Г. Дз. Рэзнікаў), Віцебскую (В. Р. Кудзінаў), Лепельскую (К. П. Бажанок), Полацкую (Б І Мажайскі) Пры адказных арганізатарах працавала па 3—5 інструктараў. У тыле ворага падоўгу знаходзіліся сакратары падп. абкома, асабліва Жылянін і Пазнякоў. Абком вырашаў пытанні расстаноўкі кадраў, росту парт. радоў у партыз. фарміраваннях, удасканалення структуры партыз. сіл, баявой дзейнасці партызан і падпольшчыкаў, распрацоўваў найб. буйныя баявыя аперацыі, арганізоўваў агітацыйную і прапагандысцкую работу, дастаўку і распаўсюджанне газет і лістовак сярод насельніцтва ў тыле працўніка. *М У Дарафеенка*

**ВІ́ЦЕБСКІ ПАДПО́ЛЬНЫ АБКОМ ЛКСМБ** у Вялікую Айчынную вайну. Дзейнічаў з 8.3.1942 да 26.6. 1944 пад кіраўніцтвам ЦК ЛКСМБ і *Віцебскага падпольнага абкома КП(б)Б* Узначальваў дзейнасць Віцебскага падп гаркома ЛКСМБ, 20 падп. райкомаў, 814 тэрытарыяльных, 583 пярвічных камсамольскіх арг-цый у партыз. фарміраваннях, усяго больш за 12 тыс. камсамольцаў. Бюро абкома: Я. А. *Жылянін* [з 17.7.1942, сакратар Віцебскага падп АК КП(б)Б], В. І. *Лузгін* (17.7.1942—25.5.1944), Н. С. Самуйлава (з 17.7. 1942), Ф А. *Башкінцаў* (31 7 1942—30 11.1943), А. А. Быкава (з 31.7.1942—30.11.1943), І. Ф. Канарскі (з 19.12 1943), В. Н. Пазняк (з 1.12.1943), А. П Жаўнерка (з 31.7.1943); сакратары. Лузгін (да 25.5.1944, 1-ы сакратар), Башкінцаў (30.7.1942—30.11.1943), Жаўнерка (з 31.7 1943), Пазняк (з 1.12.1943), Канарскі (з 19.12.1943); члены: В. Ц. Радкевіч (з 1.5.1942), А. А. Казуля, Пазняк, Самуйлава (усе трое з 1.6.1942), А. М Шкурынава (1.6.1942—18.7.1943, загінула), Ф. К. Падскочая (1.5—1.10.1943), В. П. Маркоўская (з 1.10.1943), А. М. Нямыкін (з 1.4.1944). Базіраваўся ў прыфрантавой паласе на неакупіраванай тэрыторыі, на ПнУ ад Суража Віцебскай вобл , з 8 3 1942 у партыз. атрадзе М П Шмырова, у інш. партыз. атрадах і брыгадах Віцебскай вобл.

На тэр. вобласці камсамольскім падполлем кіравалі сакратары ЦК ЛКСМБ М. В. *Зімянін,* К. Т. *Мазураў,* А. М. Чэрнікава, С. В. *Прытыцкі.* У розны час 1942—43 працавалі чл. бюро ЦК ЛКСМБ Ф. А. *Сурганаў,* М. П. *Барашкаў,* інструктары ЦК ЛКСМБ па падп. рабоце Т. І. Гаварэнь (Прытыцкая), Г. Ф Шастакоў. Летам 1942 створаны 4 кусты (Лепельскі, Полацкі, Аршанскі, Віцебскі, кіраўнікі Жаўнерка, Радкевіч, Пазняк, Шкурынава, Маркоўская). Па рашэнні бюро абкома (пач. 1943) з маладых партызан у кароткі тэрмін падрыхтавана каля 5 тыс. куляметчыкаў, мінаметчыкаў, артылерыстаў, снайпераў, мінераў, створаны 263 камсамольскія дыверсійныя групы. 5.4.1943 абком правеў у в. Клясціцы Расонскага р-на міжраенную камсамольскую канферэнцыю (85 дэлегатаў ад камсамольскіх арг-цый партыз. брыгад)

У в. Клясціцы ў гонар камсамольскай канферэнцыі ў 1969 установлена мемарыяльная дошка.

*В І. Лузгін, Р М Шаяла*

**ВІ́ЦЕБСКІ ПЯХО́ТНЫ ПОЛК,** вайсковая часць у расійскай арміі ў 18 — пач 20 ст. Сфарміраваны ў г. Казані як «пяхотны Скрыпіцына полк» У Паўночную вайну 1700—21 пад назвай Капорскі пяхотны прымаў удзел у Палтаўскай бітве [27.6(8.7) 1709], асадзе г. Рыгі (1710). Удзельнічаў у руска-турэцкіх войнах 18 ст.· у Пруцкім паходзе (1711), бітвах на Днястры (жн. 1769) штурме крэпасці Хацін (вер. 1769), у баях каля рэк Ларга і Кагул (ліп. 1770), у паходах А. В. Суворава. У 1762 полк падтрымаў дварцовы пераварот, які прывеў да ўступлення на трон Кацярыны II. У 1784 атрымаў найменне Віцебскі пяхотны (у 1796—1811 называўся Віцебскі мушкецерскі полк). З чэрвеня 1801 знаходзіўся ў распараджэнні Крымскай інспекцыі і кватараваўся ў г Кафа

(цяпер г. Феадосія). У гэты час складаўся з 2 батальёнаў, у якія ўваходзілі па 2 мушкецерскія і 1 грэнадзёрская роце. Прымаў удзел у антынапалеонаўскіх войнах канца 18 — пач. 19 ст., руска-турэцкай вайне 1806—12. У 1810—студз. 1811 палком камандаваў флігель-ад'ютант І. Ф Паскевіч. Пад яго камандаваннем полк удзельнічаў у баях пад г. Мангалія, штурме г. Пазарджык і асадзе Варны (май 1810), у аблозе крэпасці Рушчук [капітулявала 15(27).9 1810]. У час Айч. вайны 1812 і замежных паходаў рус. арміі 1813—14 удзельнічаў у *Барысаўскай бітве 1812*, у баях каля крэпасці Торн (цяпер г. Торунь, сак — крас 1813), пры Баўцэне (май 1813), Брыене (студз. 1814) і інш. У час руска-турэцкай вайны 1828—29 полк знаходзіўся пад Варнай (ліп.— вер. 1828) і каля Правод (май 1929). У студз 1833 аб'яднаны з 13-м егерскім палком і атрымаў назву Віцебскі егерскі полк (да крас. 1896). У 1849 удзельнічаў у задушэнні рэвалюцыі ў Венгрыі У Крымскую вайну 1853—56 полк браў удзел у абароне Севастопаля (вер. 1854 — жн. 1856). Удзельнічаў у 1-й сусв вайне. Пасля Кастр. рэвалюцыі расфарміраваны ў пач. 1918.

*Кр* Полн собр законов Российской империи Собр 1-е Т 25 № 18725 Т 26 № 19809 Т 30 № 22778, Собр 2-е Т 4 № 3214 Т. 31, отд 2-е № 30404, Поход русской армии против Наполеона в 1813 г и освобождение Германии Сб документов М, 1964 С 245—247, 498

*Літ* Бантыш-Каменский Д Н Биография российских генералиссимусов и генерал-фельдмаршалов Спб, 1841 Ч 4 С 190—192, Отечественная война Описание войны 1812—1815 г, составленное по сочинению А И Михайловского Данилевского Спб, 1899 С 442—443

*Ш І Бекцінееў*

**«ВІЦЕБСКІ РАБО́ЧЫ»**, абласная незалежная масавая газета. Выходзіць з 1917 у Віцебску на бел. мове 3 разы на тыдзень Інфармуе аб падзеях грамадска-паліт, эканам і духоўнага жыцця Віцебшчыны.

Заснавана ў ліп. 1917 як орган шматпартыйнага *Віцебскага Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў* Пасля кастр. падзей 1917 і ўтварэння бальшавікамі Віцебскага ВРК з 29 10(11.11).1917 газета выходзіла пад назвай «Известия военно-революционного комитета города Витебска», затым — «Известия Витебского революционного Совета солдатских и рабочих депутатов» Тлумачыла мерапрыемствы сав. улады, апублікавала рашэнні II Усерасійскага з'езда Саветаў, Дэкрэт аб зямлі Да 29 9 1929 выходзіла на рус. мове. У 1918 мела назвы. «Известия губернского Совета крестьянских, рабочих, солдатских и батрацких депутатов и Витебского революционного Совета солдатских и рабочих депутатов» (№ 3—5), «Известия Витебского революционного губернского и городского Советов крестьянских, рабочих, солдатских и батрацких депутатов» (№ 6—14), «Известия Витебского губернского и городского Советов крестьянских, рабочих, солдатских и батрацких депутатов» (№ 15—81) У 1918 (№ 82) — 1920 (№ 83) — «Известия Витебского губернского Совета крестьянских, рабочих, красноармейских и батрацких депутатов», у 1920 (№ 84) — 1921 (№ 70) — «Известия Витебского губревкома и губкома РКП», у 1921 (№ 71—182) — «Известия Витебского губисполкома и губкома РКП(б)». У 1924 выходзіла пад назвамі «Известия Витебского губкома РКП и губисполкома» (№ 14—69), «Известия Витебского угоркома РКП и угорисполкома» (№ 70—105), «Известия Витебского угоркома КП(б) Белоруссии и угорисполкома» (№ 106—182), «Известия Витебского окркома КП(б) Белоруссии и окрисполкома» (№ 183—218), у 1924 (№ 219) — 1929 (№ 225) — «Заря Запада», у 1929 (№ 226) — 1938 (№ 93) — «Віцебскі пралетарый», з крас. 1937 наз «Віцебскі рабочы». У Вял. Айч. вайну орган *Віцебскага падпольнага абкома КП(б)Б*, выдавалася з 7.6.1942 спачатку на акупіраванай тэр. Беларусі, затым у прыфрантавой паласе. Распаўсюджвалася ў партыз атрадах і сярод насельніцтва часова акупіраванай ням.-фаш. захопнікамі тэр. Віцебскай вобл. У пасляваен. час да жн 1991 — орган Віцебскага абл. і гар к-таў КПБ.

Радавы Віцебскага пяхотнага палка. Канец 18 — пач 19 ст

З 1991 газета адлюстроўвае працэс адраджэння гіст., духоўнай спадчыны, нац самасвядомасці беларусаў. У рэгулярных выпусках «Сябрына» публікуюцца матэрыялы па гісторыі Беларусі, краязнаўстве, культуры, этнаграфіі, тапаніміцы і г д. Пастаянныя аўтары рубрыкі — гісторыкі і краязнаўцы В. Акуневіч, Л. Васюковіч, І. Волкаў, В. Ермаленак, Я. Кічына, М. Маніс, В Несцяровіч, А Падліпскі, М. Паўлаў, М. Плавінскі, М. Рыўкін, Л Хмяльніцкая, К. Шыдлоўскі, Ю Якімовіч, І Януш і інш.

*У П Ганчароў*

**ВІЦЕБСКІ РАЁН.** Размешчаны на У Віцебскай вобл Пл. 2,8 тыс. км$^2$, насельніцтва 47,8 тыс. Цэнтр — г *Віцебск.* Цэнтр. і ўсх. часткі раена ў межах Віцебскага ўзвышша, зах.— Полацкай нізіны, паўн.-ўсх.— Суражскай нізіны. Працякае рака Зах Дзвіна з прытокамі Усвяча, Лужаснянка, Каспля, Лучоса, Віцьба, шмат азер. Пад лесам 32 % тэр. раена. Заказнікі арніталагічны Дымаўшчына, батанічны Чортава Барада, журавіннікі Заполле, Мошна. Праходзяць чыгункі і аўтамаб. дарогі на Оршу, Полацк, Санкт-Пецярбург, Маскву

Раен утвораны 17.7.1924 у Віцебскай акрузе. 20.8.1924 падзелены на 12 сельсаветаў Астровенскі, Бабініцкі, Войтаўскі, Машканскі, Пліскі, Рудакоўскі, Рудніцкі, Сініцкі, Сялюцкі, Чарніцкі (з 29 10 1924 Замастоцкі), Шумнянскі, Ялагаўскі 26 3 1927 да В р далучаны Бараўлянскі, Віцебскі, Даўжанскі, Заронаўскі, Кабішчанскі, Курынскі, Лятчанскі (Вялікалятчанскі), Мікалаеўскі, Міхалеўскі, Старасельскі сельсаветы ліквідаванага Кузняцоўскага раена 15.2.1931 В р скасаваны. 27.7. 1937 адноўлены, у яго ўключана 14 сельсаветаў Бабініцкі, Бараўлянскі, Віцебскі, Даўжанскі, Заронаўскі, Лятчанскі, Мікалаеўскі, Міхалеўскі, Рудакоўскі, Рудніцкі, Старасельскі, Сялюцкі, Шумнянскі, Ялагаўскі. З 20 2 1938 В. р. уваходзіць у Віцебскую вобл

У канцы 1920-х гадоў мясцовая прам-сць складалася з лесапільнага, 2 цагельных з-даў, 10 млыноў, электрастанцыі, механічнай майстэрні, 2 торфараспрацовак. 9 арцеляў аб'ядноўвалі 151 саматужніка Развівалася с.-г і спажывецкая кааперацыя, якая ў 1929 рэарганізавана, 9 спажывецкіх т-ваў аб'яднаны ў адзін райспажыўсаюз, а 7 с.-г крэдытных т-ваў — у сельгасбанк і райкаапсаюз Набірала тэмп прымусовая калектывізацыя. Калі ў 1929 было 28 калектыўных гаспадарак, то на канец 1930 — 48 калгасаў і 18 саўгасаў; іх спецыялізацыя — мяса-малочная жывелагадоўля, агародніцтва У школах раена ў 1928/29 займалася 8,4 тыс дзяцей, у 1930/31 — 12,3 тыс Дзейнічалі 2 бальніцы, 5 урачэбна-амбулаторных і ветфельчарскі пункт, 11 аптэк

У пач. Вял. Айч. вайны на Віцебшчыне мужнасць і гераізм у баях супраць ням.-фаш. захопнікаў паказалі байцы Чырв. Арміі (гл. *Віцебска абарона 1941*) У пачатку ліп 1941 тэр раена акупіравана гітлераўцамі, якія знішчылі тут больш за 19 тыс чал. Ужо ў ліп. 1941 М. П. *Шмыроў* узначаліў першы на Віцебшчыне партыз. атрад На тэр раена дзейнічалі падп райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ, партыз. брыгады 1-я Беларуская, 1-я Віцебская, імя ВЛКСМ і інш., асобныя партыз атрады. Выдавалася падп. газ «За Родину» Частка В р ўваходзіла ў *Суражскую партызанскую зону.* У лют.— вер 1942 існавалі *Віцебскія «вароты»* — 40 кіламетровы пралом у лініі ням. фронту Супраць партызан і мясцовага насельніцтва ням.-фаш захопнікамі неаднаразова праводзіліся карныя аперацыі, буйнейшыя — *«Шаравая маланка»* (лют.— сак 1943) і «Майская навальніца» (май 1943) Разам з насельніцтвам

былі знішчаны вёскі Аржавухава, Дубавіцы, Дубрава, Лычнева, Падзародня, Подцава, Сазаны, Стэськава, Стукальна, Шухвасты, Шыцікі, Малыжана (пасля вайны не адрадзіліся). Усяго на тэр. сучаснага В. р. было спалена 419 нас. пунктаў. Раен вызвалены ў канцы чэрв. 1944 у выніку *Віцебска-Аршанскай аперацыі 1944* (усх. частка ў канцы кастр. 1943).

15.2.1949 да раена далучаны Каралеўскі, 24.8.1951 Акцябрскі сельсаветы Лезненскага р-на, 20.1.1960 — Замастоцкі, Асінаўскі сельсаветы Багушэўскага р-на, Астроўскі, Балашоўскі, Батаніцкі, Войтаўскі, Запольскі, Котаўскі, Краўцоўскі, Курынскі, Наваселкаўскі, Тарасенскі, Янавіцкі сельсаветы, г. п. Сураж і Янавічы Суражскага р-на. У В. р. з 25.12.1962 г. п. Шуміліна, Дабейскі, Лескавіцкі, Лоўжанскі (часткова), Пагарэліцкі і Сіроцінскі сельсаветы скасаванага Шумілінскага р-на (з 30.7.1966 зноў у Шумілінскім р-не), Астровенскі і Пліскі сельсаветы Бешанковіцкага р-на (з 12.2.1965 зноў у Бешанковіцкім р-не), Вымнянскі сельсавет з 22.1.1963 па 2.8.1966 у складзе Лезненскага р-на. 31.7.1970 утвораны г. п. Руба ў адм. падпарадкаванні Віцебскага гарсавета. На 1.1.1992 у раене 384 сельскія нас. пункты, 14 сельсаветаў: Акцябрскі, Бабініцкі, Варонаўскі, Вымнянскі, Задуброўеўскі, Замастоцкі, Запольскі, Заронаўскі, Курынскі, Лятчанскі, Мазалаўскі, Ноўкінскі, Тулаўскі, Шапечынскі, 20 калгасаў, 10 саўгасаў, 40 фермерскіх гаспадарак, асацыяцыя с.-г. кааператываў і сялянскіх фермерскіх гаспадарак, 2 вытворча-камерцыйныя т-вы. У сельскай гаспадарцы асн. месца займае малочна-мясная жывелагадоўля, агародніцтва, бульбаводства, на ПнУ — ільнаводства, пашыраны пасевы збожжавых. Развіта птушкагадоўля. Дзейнічаюць прадпрыемствы буд. матэрыялаў, лёгкай, паліўнай і харчовай прам-сці 21 сярэдняя школа, 7 васьмігадовых, 1 дзіцячая спартыўная, 40 дашкольных устаноў, 58 клубаў, 56 бібліятэк, 39 кінаўстановак, 1 паліклініка, 4 амбулаторыі, 1 урачэбны, 3 фельчарскія і 34 фельчарска-акушэрскія пункты. Выдаецца раённая газ. «Жыцце Прыдзвіння».

Найб. значныя археал помнікі каля в. Бароні́кі, *Канькі*, Кузьмянцы, Лужасна, Лятохі, Мяклава, Раніна, Старое Сяло і інш Каля в. Вароны абеліск у памяць пра бой з франц. войскамі ў кастр. 1812. На тэр. раена вайсковыя могілкі ў в. Бальшухі, Войтава, Вял. Любшчына, Лосвіда, Міхайлова, Мішуткі, Тадуліна; брацкія магілы сав. воінаў і партызан у в. Альгова, Арлова, Арэхі, Асінаўка, Астроўскія, Бабінічы, Вароны, Востраў, Вымна, Гараднянскі Мох, Грабяніца, Дружная, Задзвінне, Задзябра, Заполле, Заронава, Котава, Краўцова, Кузьмянцы, Лепіна, Лучынаўка, Манулкі, Наваселкі, Ноўка, Рудакі, Сакольнікі, Саўчонкі, Старое Сяло, Сушчова, Тарасенкі, Шаркі; магілы ахвяр фашызму ў в. Гаркава, Гараднянскі Мох, Малыжана, курган на месцы спаленай в. Ваўчкі; помнікі «Віцебскія «вароты» (в. Заполле), сав. воінам каля в. Вароны, у в. Друкава, Макарава, Шульцава, партызанам у в. Арлова, Астраўскія, Гаркава, Казакова, Пудаць, Тарасенкі, Хамякова, Героям Сав Саюза М І Дружыніну (в. Замасточча), М Ф. *Сільніцкаму* (ст. Лужасна), А. Я Углоўскаму (каля в. Вымна), М. П. Шмырову (в. Пунішча, Шапурова) Помнікі архітэктуры 19 ст., паштовая станцыя (в. Бараўляны), земляробчая школа (в. Лужасна), сядзібны дом (в. Мазалава), пач. 20 ст.— царква Ушэсця (в. Лужасна). Тут нарадзіліся бел. этнограф і фальклярыст М. Я. *Нікіфароўскі*, нар. пісьменнік БССР М. *Лынькоў*, дзярж. дзеяч БССР Ф. А. *Сурганаў*. Ва ўрочышчы Здраўнева (непадалёку ад в. Койтава) у 1892—1900 жыў і працаваў мастак І. Я. Рэпін.

*Н. В Жыжнеўская*

**ВІЦЕБСКІ РЭВАЛЮЦЫЙНЫ ГУРТОК** нарадавольскага кірунку. Існаваў у Віцебску ў канцы 1870 — пач. 1880-х гадоў. Членамі былі пераважна гімназісты, у т. л. В. М. *Вайніловіч*, А. І. *Марчанка*, К. А. Ратнер і інш. З гуртком былі звязаны ўладальнікі маенткаў, размешчаных непадалёку ад горада,— У. К. Гласко, Л. Т. *Арэнгейм* і яго жонка і інш. Гуртковуцы сабралі па падпісным лісце 150 руб. на рахунак *«Народнай волі»* Летам 1882 схавалі ад паліцэйскага сыску друкарскія прылады і групу нарадавольцаў, якія спрабавалі наладзіць у Віцебску падп. друкарню. Гурток меў марксісцкую л-ру на польскай мове, шэраг інш. выданняў «Народнай волі». У снеж. 1883 у пасылцы, здадзенай у Віцебскую паштовую кантору і адрасаваную ў Коўна, паліцыя знайшла газ. «Proletariat» («Пралетарыят») і інш. нелегальныя выданні Пасля арышту вясной 1884 найб. актыўных чл. гуртка яго дзейнасць спынілася. Былыя гурткоўцы Вайніловіч, В. А. Руткевіч, Г. Ф. Яцкевіч у час вучобы ў Варшаўскім ун-це ў 1882 актыўна ўдзельнічалі ў рабоце польскай паліт. партыі «Пралетарыят» (Вялікі), падтрымлівалі сувязі з дзеячамі «Народнай волі». Руткевіч — адзін з перакладчыкаў на польскую мову «Капітала» К. Маркса За ўдзел у студэнцкім руху ў крас. 1883 Вайніловіч і Яцкевіч арыштаваны і ў 1883 высланы ў Віцебск пад нагляд паліцыі. Чл. гуртка Марчанка і Ратнер, будучы студэнтамі ВНУ Пецярбурга, удзельнічалі ў складанні праграмы «Беларускай сацыяльна-рэвалюцыйнай народнай партыі», якая планавалася як абласная арг-цыя «Народнай волі» на Беларусі. Яны ўдзельнічалі таксама ў

падрыхтоўцы і выданні № 1 нелегальнага час. *«Гомон».* *М. В. Біч.*

**ВІЦЕБСКІ САВЕ́Т РАБО́ЧЫХ І САЛДА́ЦКІХ ДЭПУТА́ТАЎ.** Створаны ў сак. 1917. На ўстаноўчым сходзе прадстаўнікоў прадпрыемстваў і ўстаноў горада 8(21).3.1917 выбраны Савет рабочых дэпутатаў (300 чал.). У выбарах удзельнічала каля 12 тыс. чал. Быў найбольшым пасля Мінскага Савета на Беларусі. Стварыў выканком з 45 чал., прэзідыум выканкома — 7 чал. (старшыня бундавец Р. Арансон). 19.3(1.4).1917 створаны Савет салдацкіх дэпутатаў з прадстаўнікоў размешчаных у горадзе вайск. часцей (старшыня меншавік Я. Тарле). Рашэнне аб зліцці Саветаў прынята 20.3(2.4).1917, аднак агульны прэзідыум не быў створаны да Кастр. рэвалюцыі; праводзіліся толькі сумесныя пасяджэнні выканкомаў і агульныя сходы чл. Саветаў. У Саветах пераважаў уплыў прадстаўнікоў рэв.-дэмакр. партый: меншавікоў, эсэраў, Бунда. У выканком 1-га складу ўваходзілі чл. *Віцебскай латышскай раённай арганізацыі РСДРП* В. Я. Чунчын, Аболін. Першы дакумент Савета — зварот «Да ўсіх рабочых горада», у якім гал. задачай ставілася барацьба з контррэвалюцыяй, прыняты 8(21).3.1917. Савет заклікаў рабочых да яднання, барацьбы за свабоду, дэмакр. рэспубліку, лічыў неабходным стварэнне спец. рабочай міліцыі. Прадстаўнікі Савета ўдзельнічалі ў Петраградскай нарадзе Саветаў самых буйных гарадоў Расіі (сак. 1917). Пад уздзеяннем мас Савет зрабіў шэраг пераўтварэнняў, у асн. ён падтрымліваў палітыку Часовага ўрада. У ліп.— жн. 1917 адбыліся перавыбары Савета. У перыяд карнілаўшчыны рэв. дзейнасць Савета ажывілася. 28—29.8(12—13.9).1917 пры ім створана Ваеннае бюро з 7 чалавек, якое фактычна сканцэнтравала ўсю паўнату ўлады ў горадзе: устанавіла ахову на чыгунцы, пошце, тэлеграфе, у зброевых майстэрнях, у штабе акругі, цэнзуру на газеты і тэлеграмы. Ваен. камендант быў зняты і заменены прадстаўніком Савета. Бальшавіцкая фракцыя Савета арганізацыйна афармілася 24.9(7.10).1917, яе прадстаўніком выбраны Дзёмін. 18(31) кастр. Савет большасцю галасоў адхіліў унесены бальшавікамі тэкст наказу дэлегатам II Усерасійскага з'езда Саветаў. Дэлегатамі былі выбраны бундавец А. Б. Караўкін і эсэр І. Ц. Сідарэнка. Пасля перамогі Кастр. ўзброенага паўстання ў Петраградзе большасць Савета на пасяджэнні 27.10(9.11).1917 асудзіла Кастр. рэвалюцыю, не прызнала цэнтр. органы сав. улады. Бальшавікі стварылі ваенна-рэв. к-т (ВРК), які заклікаў рабочых і салдат выбраць новы Савет. Рашэннем ВРК стары Савет быў абвешчаны страціўшым свае паўнамоцтвы. 11(24).11.1917 пачаў дзейнічаць новы Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў, які ў адрозненне ад старога называўся рэвалюцыйным (старшыня У. Я. Каралёў, пазней Я. Гоба). У выканком (11 чал.) увайшлі прадстаўнікі Віцебскага губ. к-та РСДРП(б), гарадскіх латышскай і літоўскай арг-цый РСДРП, ППС. Са складу выканкома ўтвораны прэзідыум Савета. У перыяд наступлення германскіх войск на Беларусь у лют. 1918 быў заменены Рэв. штабам. Аднавіў дзейнасць 8.4.1918.
*Я. К. Прыгунова.*

**ВІЦЕБСКІ САЦЫЯ́Л-ДЭМАКРАТЫ́ЧНЫ КАМІТЭ́Т БУ́НДА,** арганізацыя Усеагульнага яўрэйскага рабочага саюза ў Літве, Польшчы, Расіі (гл. *Бунд*) у Віцебску ў 1897—1921. Утвораны на аснове прафесійных (цэхавых) стачачных кас. Разам з усім Бундам арг-цыя ў 1898—1903 уваходзіла ў склад РСДРП. У статуце к-та (1898) не ставілася паліт. і сацыяліст. мэт і задач. Дзейнасць яго абмяжоўвалася кантынгентам яўрэйскіх рабочых, зыходзячы з іх эканам. патрэб. К-т удзельнічаў у арганізацыі буйных паліт. выступленняў (гл. *Віцебскія палітычныя выступленні рабочых 1899, Віцебскія выступленні рабочых 1901* і інш.). Пераход да паліт. агітацыі к-т пачаў у 1899—1900 у сувязі з рэпрэсіямі ўлад у адносінах да ўдзельнікаў рабочага руху. Садзейнічаў разгортванню с.-д. агітацыі ў суседніх павятовых гарадах і мястэчках. Напярэдадні і ў перыяд уздыму рэвалюцыі 1905—07 узаемадзейнічаў з *Віцебскай арганізацыяй РСДРП* у правядзенні маніфестацыі салідарнасці з паліт. ссыльнымі ў Якуцку і з рабочымі Беластока, вяснова-летніх выступленняў 1905. У час Кастр. паліт. стачкі з прадстаўнікоў к-та Бунда і групы РСДРП утвораны *Віцебскі кааліцыйны камітэт,* які кіраваў рэв. рухам у горадзе ў кастр.— снеж. 1905. У 1906 і 1907 дэлегаты к-та ўдзельнічалі ў рабоце IV і V з'ездаў РСДРП. У час адступлення рэвалюцыі ў дзейнасці к-та, як і Бунда ў цэлым, узмацніліся сепаратысцкія тэндэнцыі, якія найбольш праявіліся ў стварэнні асобных прафсаюзаў яўрэйскіх рабочых, а таксама ў прапагандзе ідэй культурна-нац. аўтаноміі, якая збліжала Бунд з сіяністамі. Летам 1907 к-т разгромлены, увосень 1908 адноўлены. На арганізацыйных сходах у 1908 створаны камісіі (фінансавая і па працы сярод навабранцаў, па кіраўніцтве эканам. барацьбой рабочых); сабраў і адправіў у ЦК Бунда сродкі на выданне нелегальнай газеты. У ліст. 1909 дзейнічалі 4 гурткі рамеснікаў (па 15—18 чал.), створаны прафсаюз краўцоў, які арганізаваў 5 невял. эканам. стачак. Дзейнасць к-та абмяжоўвалася арганізацыяй дробных эканам. стачак, ад удзелу ў паліт. барацьбе з царскімі ўладамі ён фактычна адмовіўся. За дзесяцігоддзе паміж рэвалюцыямі віцебскія бундаўцы правялі адно буйное паліт. выступленне ў сувязі з кіеўскім судовым працэсам яўрэя Бейліса ў 1913. У пач. 1914 створана Віцебская аб'яднаная арг-цыя РСДРП і Бунда. 28.4(11.5).1914 яна ліквідавана паліцыяй і разгарнуць шырокую дзейнасць не паспела. У гады 1-й сусв. вайны ў Віцебску была невял. група бундаўцаў, якая канцэнтравалася вакол Чырв. Крыжа і Яўрэйскага т-ва працоўнай дапамогі. Іх дзейнасць абмяжоўвалася арганізацыяй дабрачыннай дапамогі высяленцам, бежанцам і беспрацоўным. Арг-цыя адноўлена ў сак. 1917. У маі 1917 яна налічвала 650 чал. Разам з меншавікамі бундаўцы занялі кіруючыя пасады ў Віцебскім Савеце рабочых і салдацкіх дэпутатаў, а адзін з іх лідэраў (Р. Арансон) узначаліў Савет. К-т садзейнічаў узнікненню бундаўскіх арг-цый у шэрагу павятовых гарадоў і мястэчкаў Віцебскай губ., склікаў губ. з'езд іх прадстаўнікоў. Кастр. рэвалюцыю к-т сустрэў варожа. На пасяджэнні гар. думы 31.10(13.11).1917 бундаўцы прапанавалі рэзалюцыю пратэсту супраць паўстання ў Петраградзе і дзейнасці мясц. бальшавіцкай арг-цыі. Сход членаў к-та і Віцебскай аб'яднанай арг-цыі РСДРП 1(14).11.1917 асудзіў выступленне бальшавікоў, патрабаваў стварэння кааліцыйнай улады і правядзення выбараў ва Устаноўчы сход. У ходзе выбараў за сумесны спіс бундаўцаў і меншавікоў у Віцебску прагаласавала 3682 з 21 324 выбаршчыкаў. У канцы 1917 — пач. 1918 к-т удзельнічаў у выбарах на ўсерас. яўрэйскі з'езд, выступаў супраць ліквідацыі гар. думы, роспуску Устаноўчага сходу. На пач. 1919 уплыў бундаўцаў у Віцебску рэзка паменшыўся. У гар. Савеце з 128 іх засталося 12. У канцы 1919 арг-цыя раскалолася. Правыя бундаўцы пайшлі на саюз з мясц. сіяніцкай рабочай арг-цыяй. У 1921 Віцебскі к-т самаліквідаваўся. Частка левых бундаўцаў уступіла ў РКП(б).
*П. К. Башко, М. В. Біч, Э. М. Савіцкі.*

**ВІ́ЦЕБСКІ УЗГО́РСКІ ЗА́МАК.** Існаваў у сярэдневяковым Віцебску. Уяўляў сабой комплекс драўляна-земляных умацаванняў вакол гандлёва-рамеснага пасада, таржышча, гасцінага двара і ратушы. Размяшчаўся на ўзгорыстай тэрыторыі (адсюль назва) левага берага высокага берага Зах. Дзвіны ў сутоках з ёю р. Віцьбы. З У, Пд і З подступы да замка ахоўваліся рэкамі і штучным ставам на р. Віцьбе, з Пн знаходзіўся роў шырынёй 8,4 м, глыбінёй да 4 м і земляны вал даўжынёй 175 сажняў. Па перыметры замак быў умацаваны драўлянымі абарончымі сценамі і вежамі. Першыя драўляныя ўмацаванні, верагодна, з'явіліся тут у 12—13 ст., аднак па меры павелічэння тэр. пасада ў паўн. кірунку яны трацілі сваю актуальнасць і зніклі, адрадзіўшыся ў 17 ст. З рускіх разведвальных дакументаў вядома, што ў Віцебску толькі ў 1632 «почат город делать земляной да не доделан, а стонт на горе велик, а ие строен, взять его мочно 500 человек, дворов мещанских с 2000, стоят не стройно, врозни, а живут люди не боевые, войны не знают». Паколькі Віцебскія Верхні і Ніжні замкі былі ў той час муравanымі, значыць, вышэйзгаданыя звесткі датычацца В. У. з. У розныя часы замак меў розную

структуру ўмацаванняў і розны перыметр. У 1656 лінія ўмацаванняў дасягала 1800 м, у плане ён меў канфігурацыю, блізкую да чатырохвугольнай. Абарончыя сцены на працягу 17 ст. мяняліся канструктыўна і мелі выгляд стаячага астрога, рубленых сцен-гародняў, тарасаў з палацямі для стральбы і кансольнымі бэлькамі для размяшчэння «каткоў» — бярвёи, што скідалі ў час штурму праціўніка. Пярэднія сценкі ў іх рубіліся ў 1—3 бервяны ў залежнасці ад месца размяшчэння. У лініі абароны замка былі 7 вял. і 2 невял. вежы — «бычкі», прыстасаваныя да абароны 2 млыны на Віцьбе і 4 брамы. Прачысценскі бычок, Прачысценская вежа і Рагавая вежа размяшчаліся з боку Зах. Дзвіны, Сярэднія вежы 1-я і 2-я і Навугольная — з паўн. боку, Узгорская вежа, Мікольскі бычок, Манастырскі круглік і млын — з усх. боку; лінія гародняў праходзіла паўз бераг Віцьбы да Мяшчанскага млына каля яе вусця. Вежы і «бычкі» былі прамавугольныя ў плане, мелі 2—4 ярусы баёў, абламы, 4-схільныя гонтавыя дахі, якія завяршаліся назіральнымі вежачкамі з брусоў — трапіламі. Узгорская вежа і Манастырскі круглік былі 8-граннымі, некаторыя вежы не мелі абламаў ці трапіл. Брамы размяшчаліся з усіх бакоў лініі ўмацаванняў, мелі разнастайныя знешні выгляд і памеры. Так, Суражская брама, што размяшчалася ў паўн. частцы замка паміж 2 сярэднімі вежамі і адкрывала дарогу на Сураж, была драўляная, квадратная ў аснове (10,5×10,5 м), мела 3 ярусы галерэй для бою, абламы і трапіла. Кстоўская брама мела 3 паверхі і, уключаючы абламы, завяршалася трапілам. Падзвінская праезная брама, што размяшчалася паміж Мяшчанскім млынам і Прачысценскім бычком на схіле Успенскай (Лысай) гары, была ў аснове квадратнай (7,5×7,5 м), мела 3 ярусы баёў, абламы і трапіла. З паўд. боку знаходзілася яшчэ адна брама, якая адкрывала дарогу з Верхняга і Ніжняга замкаў па мосце цераз Віцьбу да старой плошчы, дзе, відаць, у старадаўнія часы збіралася мясцовае веча. У дакументах 16—17 ст. яна называецца Вечная (Вечавая) ці Маляваная брама. Яна была багата аздоблена маляванымі абразамі і з'ўлялася своеасаблівай парадная брамай, праз якую госці горада (купцы) траплялі на гандлёвую плошчу і выязджалі на Вялікую Узгорскую вуліцу. У Маляванай браме знаходзіўся гадзіннік. У дакументах нічога не гаворыцца пра яе памеры, колькасць ярусаў, наяўнасць абламаў і трапіла; відаць, яна нічым не адрознівалася ад інш. брам. У час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* яна згарэла і больш не аднаўлялася. Драўляныя млыны, якія закрывалі рух праз плаціну, таксама былі прыстасаваны для абароны. Перад брамамі і многімі вежамі былі дадатковыя ўмацаванні — равы, рагаткі, чэсцікі — рады завостраных і часта пастаўленых калоў і інш. Забудова замка вялася ўздоўж 3 вял. вуліц, якія пачыналіся ад Суражскай, Прачысценскай і Маляванай брам, і шэрага невял. завулкаў, што адыходзілі ад вуліц у два бакі. Усе вуліцы выходзілі на рыначную плошчу, да гасцінага двара з крамамі, складамі і гарадской ратушай, шпіль якой вянчаў герб «Пагоня». Тут жа размяшчаліся цэрквы Увядзенская, Васкрасенская, Праабражэнская і, магчыма, Прачысценская, якая дала назву двум суседнім вежам. Побач з ратушай былі багадзельні. Умацаванні замка ўзводзіліся мяшчанамі, аб'яднанымі ва Узгорскую баявую сотню. Дарослае мужчынскае насельніцтва было ўзброена агнястрэльиай і халоднай зброяй. На сценах і вежах змяшчаліся гарматы і гакаўніцы, якія абслугоўвалі пушкары. Замак не раз быў спалены ў час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай сярэдзіны 17 ст. Канчаткова спалены ў час *Паўночнай вайны 1700—21* паводле загаду Пятра І 28.9.1708 адступаючым рус. войскам.

*Літ.:* Ткачев М. А. Замки Белоруссии. Мн., 1987. С. 119—135; Чарняўская Т. І. Архітэктура Віцебска. Мн., 1980. С. 17—22. *М. А. Ткачоў.*

**ВІЦЕБСКІ ЦАРКОЎНА-АРХЕАЛАГІЧНЫ МУЗЕЙ.** Існаваў у 1839—1919. Заснаваны па ініцыятыве бел. гісторыкаў і краязнаўцаў А. П. *Сапунова* і Е. Р. *Раманава.* Першыя экспанаты сабраны ў Віцебску. Папаўняўся матэрыяламі арх. раскопак на Віцебшчыне і выпадкова знойдзенымі рэчамі. У 1905 было 1247 экспанатаў, у т. л. манеты, медалі, царкоўнае начынне, творы бел. мастакоў 17—18 ст., узоры нар. разьбы па дрэве і косці і інш. Найбольшую каштоўнасць мелі рукапісныя кнігі і дакументы ўстаноў Полацкай епархіі, апісаныя Сапуновым у кнізе «Архіў Полацкай духоўнай кансісторыі» (1898). У 1919 большасць матэрыялаў перададзена Віцебскаму губ. музею (гл. ў арт. *Віцебскі абласны краязнаўчы музей*).

*Літ.:* Довгялло Д. И., Никифоровский Н. Я. Описание предметов древности, поступивших в Витебское епархиальное церковно-археологическое древлехранилище по ноябрь 1897 года. Вып. 1. Витебск, 1897; Записки Северо-Западного отдела Имп. Русского географического общества. Кн. 1. Вильна, 1910.

**ВІЦЕБСКІ ЦЭНТРАЛЬНЫ АРХІЎ СТАРАЖЫТНЫХ АКТАЎ,** Цэнтральны архіў старажытных

Збудаванні **Віцебскага Узгорскага замка** (з «Чарцяжа» Віцебска 1664). Уверсе: ратуша, гасціны двор і гандлёвыя рады (злева); Сярэдняя вежа. Унізе: Падзвінская праезная брама (злева); Увядзенская царква.

актавых кніг Віцебскай і Магілеўскай губерняў. Існаваў у 1862—1903 у Віцебску. Створаны ў вер. 1862 паводле ўказа Сената Расійскай імперыі ад 2.4.1852 для збірання і зберажэння дакументаў часоў ВКЛ на тэр Віцебскай і Магілеўскай губ. Знаходзіўся ў распараджэнні мін-ва ўнутр спраў, з 1896 — мін-ва нар асветы Расіі з падпарадкаваннем апекуну Віленскай навуч. акругі. Меў 1896 актавых кніг акты Віцебскага ваяв. магістрата, земскіх і гродскіх судоў, магдэбургій, інвентары, каралеўскія прывілеі 16—18 ст З 1871 выдаваў зб *«Гісторыка-юрыдычныя матэрыялы»*, дзе публікаваў найбольш каштоўныя дакументы, частка дакументаў надрукавана ў «Віцебскай дауніне» Значны ўклад у дзейнасць архіва зрабілі А. М. Сазонаў, М. Л. Вяроўкін, Дз І. Даўгяла, А. П. Сапуноў. Пасля скасавання дакументы архіва перададзены ў *Віленскі цэнтральны архіў старажытных актаў*, у 1915 у сувязі з 1-й сусв вайной большая частка дакументаў эвакуіравана. Частка ацалелых матэрыялаў зберагаецца ў Цэнтральным дзяржаўным гістарычным архіве Беларусі.

*Публ* Историко-юридические материалы, извлеченные из актовых книг губерний Витебской и Могилевской, хранящихся в Центральном архиве в Витебске Вып 1—32 Витебск, 1871—1906

*Літ* Лялин В Витебский центральный архив Спб, 1880 *М І Камінскі*

**ВІЦЕБСКІ ЧЫГУНАЛІЦЕЙНА-МАШЫНАБУДАЎНІЧЫ ЗАВОД.** Існаваў з 1877 у Віцебску. Напачатку вырабляў плугі, выконваў кавальска-слясарныя работы З 1892 тут дзейнічаў паравы рухавік. У 1900—13 завод належаў мешчаніну нямецкага паходжання з Прыбалтыкі І І. Грынбергу Пад уплывам канкурэнцыі ен перапрафіляваў завод у прадпрыемства па выпуску турбін, прыводаў, жорнаў і інш. абсталявання для млыноў. Пачалі дзейнічаць ліцейны і механічны цэхі. У 1900 выраблены 24 прыводы для млыноў на 32 тыс. руб., турбін — на 30 тыс руб., млынавых машын — на 6 тыс. руб. У 1914—16 завод выконваў ваенныя заказы. У 1890—95 працавала 50 рабочых, у 1902 — 75, у 1913 — 58 дарослых і амаль столькі ж вучняў Заработная плата рабочых у 1900 складала 6—9 руб у тыдзень, праца вучняў на працягу першых 3 гадоў не аплачвалася. Працяглацсь рабочага дня дарослых — 10—11 гадзін, падлеткаў — 8 гадзін. У рэв. 1905—07 рабочыя завода правялі забастоўкі, маеўку, стварылі страхавую касу У ліп 1917 па заклику прафсаюза металістаў з-д баставаў на працягу 3 дзен, рабочыя дамагліся ад гаспадара ўступак· 8-гадзіннага рабочага дня, павелічэння заработнай платы Пасля Кастр. рэвалюцыі 1917 на заводзе ўстаноўлены рабочы кантроль, па заказах Чырв Арміі быў наладжаны рамонт вайсковых транспартных сродкаў, паходных кухняў і інш. У 1922 заводу прысвоена імя Камінтэрна. У гэты час тут выраблялісся драбільныя машыны, слясарныя ціскі. З 1940 на яго базе працуе Віцебскі станкабудаўнічы завод імя Камінтэрна. *М Ф Болбас*

Помнік у гонар **Віцебскіх «варот»** у в Заполле Віцебскага раена

**ВІЦЕБСКІЯ «ВАРОТЫ»,** Суражскія «вароты» ў Вялікую Айчынную вайну, 40-кіламетровы пралом у лініі фронту на стыку груп ням армій «Поўнач» і «Цэнтр» паміж Веліжам і Усвятамі, які ўтварыўся ў выніку наступлення сав. 4-й ударнай арміі Калінінскага фронту ў ходзе Таропецка-Холмскай аперацыі (9.1—6.2.1942) і вызвалення прыфрантавых раенаў партызанамі атрадаў М Ф. Бірулііна, М. І. Дзячкова, М. П. Шмырова, Я З Захарава. Існавалі В. «в.» з 10.2 да 28.9. 1942. Падступы да іх утрымлівалі часці 4-й ударнай арміі і 1-я і 2-я Беларускія партыз брыгады. Праз «вароты» партызаны падтрымлівалі кантакты з Віцебскім абкомам КП(б)Б і аблвыканкомам, якія размяшчаліся на тэр. Усвяцкага і Веліжскага р-наў Смаленскай вобл., з Паўн.-Зах аператыўнай групай ЦК КП(б)Б, камандаваннем 4-й ударнай арміі; у тыл ворага накіроўваліся арганізатарскія і дыверсійныя групы, зброя, боепрыпасы, медыкаменты, літаратура; з акупіраванай тэрыторыі выходзілі партыз. атрады на перафарміраванне, добраахвотнікі, каб уступіць у Чырв. Армію, насельніцтва, якое ратавалася ад карнікаў (эвакуіравана ў сав. тыл каля 200 тыс. чал.— жанчын, старых, дзяцей), ішлі абозы з прадуктамі ў фонд Чырв Арміі; у маі — чэрв 1942 партызаны 1-й Бел. брыгады сабралі і пераправілі ў Сав. фонд абароны на 7 млн руб. каштоўнасцей.

Гітлераўцы неаднойчы спрабавалі ліквідаваць «вароты». У пач вер. 1942 яны сцягнулі ў гэты раен вял. сілы пяхоты з артылерыяй і танкамі, у ноч на 25.9. 1943 пачалі наступаць. Найбольш жорсткія баі партызаны вялі каля весак Пуншча, Пулаць, Булы Суражскага р-на, Дразды, Шмыры, Мялыні Усвяцкага р-на. Атрад імя Курмялева суткі трымаў абарону супраць суражскай групоўкі праціўніка каля в. Пуншча, знішчыў каля 300 карнікаў, 2 танкі, але з-за недахопу боепрыпасаў адышоў на новыя абарончыя рубяжы 27 вер ўвесь дзень ішлі баі ў раене весак Шмыры і Мялыні, і толькі ўначы, пасля інтэнсіўнай артыл. падрыхтоўкі, праціўнік заняў Мялыні 28 вер. карнікі занялі вескі Шмыры, Шэршні, Карпекіна і закрылі В. «в»

У памяць аб баявых дзеяннях сав воінаў і партызан у в. Заполле Віцебскага р-на пастаўлены помнік (скульпт В Ягадніцкі), які сімвалізуе В. «в» *І П Хаўратовіч*

**ВІЦЕБСКІЯ ВЫСТУПЛЕННІ РАБОЧЫХ 1901.** Праходзілі ў Віцебску ў маі і ліст. 1901. 15(28) мая забаставалі 45 з 73 рабочых тытуневай ф-кі, якія патрабавалі аднаўлення на працы звольненага таварыша. Да штрэйкбрэхераў рабочыя выкарысталі тэрарыст. сродкі ўздзеяння, за што было арыштавана 14 рабочых. 30 мая (12 чэрв.) пад аховай паліцыі бастуючыя былі заменены новымі рабочымі. Арыштаваных некалькі месяцаў трымалі ў турме, потым суд прыгаварыў іх да ссылкі, у т л 6 чал ва Усх. Сібір. У ліст. 1901 *Віцебскі сацыял-дэмакратычны камітэт Бунда* выдаў адозву, у якой выкрываў дэспатызм улад і заклікаў рабочых выказаць салідарнасць з асуджанымі. 24.11(7.12).1901 адбылася дэманстрацыя 700 рабочых каля турмы. Конная паліцыя разагнала дэманстрантаў, 7 чал арыштаваны У ноч на 6(19) снеж распаўсюджана адозва мясц. арг-цыі Чырв. Крыжа «Да Віцебскага грамадства», якая заклікала выказаць пратэст супраць дэспатызму ўлад. *М В Біч*

**ВІЦЕБСКІЯ ВЫСТУПЛЕННІ СЯЛЯН 1797,** масавыя антыфеадальныя выступленні сялян на Віцебшчыне, выкліканыя раздачай царскім урадам пасля далучэння Беларусі да Расійскай імперыі былых дзярж. маенткаў — *староствау* — у прыватнае ўладанне і пераводам сялян з *чыншу* на *паншчыну* Пачаліся ў студз 1797 у маентках Суражскага, Гарадоцкага, Веліжскага, Себежскага, Віцебскага, Полацкага і Невельскага пав. Найбольшай напружанасці дасягнулі ў лютым 1797. Асабліва ўпартымі былі выступленні ў Езярышчанскім старостве, маентках Стайкі, Обаль, Халамер'е (Гарадоцкі пав), Прыбыткава, Верач, Загараны, Вышадкі (Суражскі пав.), Гасцілава (Віцебскі пав.) і інш. Усяго хваляванні ахапілі каля 14 тыс. чалавек Сяляне адмаўляліся выконваць паншчыну, збіраліся на сходы, выбіралі хадакоў да цара з просьбамі вярнуць іх у разрад дзяржаўных, выдаліць аканомаў і арандатараў як жорсткіх прыгнятальнікаў У некаторых весках пры спробе арыштаваць важакоў адбыліся сутычкі з прадстаўнікамі улад, паліцыяй. Асцерагаючыся расправы, многія ўладальнікі

маёнткаў выехалі ў павятовыя гарады. Для задушэння выступленняў былі накіраваны вайсковыя каманды, у сак. 1799 рух разгромлены. Многія ініцыятары выступленняў і хадакі арыштаваны і паводле прыгавору спецыяльна ўтворанай судовай камісіі пакараны бізунамі.

*Літ.:* Чепко В. В. Классовая борьба в белорусской деревне в первой половине XIX в. Мн., 1972. С. 91—103. *В. У. Чапко.*

**ВІЦЕБСКІЯ ЗАБАСТО́ЎКІ 1916,** масавыя выступленні рабочых Віцебска. У 1916 на долю працоўных Віцебска прыпадала каля 60 % ад усёй колькасці бастуючых на Беларусі. Выстаўляліся ў асн. эканам. патрабаванні. Тройчы (у студз., крас. і ліп.) баставалі рабочыя тытунёвай ф-кі; іх патрабаванні былі задаволены. У лютым і сакавіку баставалі рабочыя шчацінная ф-кі. З баставаўшых у крас. 78 рабочых шавецкіх механічных майстэрняў 6 зняволены ў турму. У забастоўцы на льнопрадзільнай ф-цы «Дзвіна» ў чэрв. ўдзельнічала 300 рабочых, да іх далучыліся працоўныя іншых прадпрыемстваў горада. Забастоўка была задушана, актыўныя ўдзельнікі арыштаваны. Аднак уладальнікі ф-кі павялічылі зарплату рабочым. 26 жн. (8 вер.) баставала каля 300 рабочых дэпо ст. Віцебск, патрабуючы паляпшэння матэрыяльнага становішча, спынення самавольства адміністрацыі. Чыг. вузел амаль поўнасцю спыніў работу. Забастоўка задушана сіламі паліцыі, арганізатары звольнены і мабілізаваны ў армію. Патрабаванні рабочых часткова задаволены.

**ВІЦЕБСКІЯ КО́ННЫЯ МЯШЧА́НЕ,** жыхары сярэдневяковага Віцебска, якія валодалі маёнткамі каля горада і былі абавязаны служыць са сваіх маёнткаў «канём», несці службу ў конным земскім апалчэнні падчас *паспалітага рушэння* нароўні са шляхтай. Конныя мяшчане-землеўладальнікі былі абавязаны «сбройно... служити» вял. князю. Паводле дакументаў Тарунскага сейма 1576, яны «весполок с князи и бояры, шляхтаю павету Витебского, з имений своих отчызных, выслужоных и с купленых ставити повини» былі 100 коней. Да надання Віцебску магдэбургскага права (1597) конныя мяшчане мелі права судзіцца ў шляхецкім павятовым судзе. З гэтай прычыны ўсе мяшчане горада называліся дваякa і падзяляліся на конных мяшчан і паспольства. Пасля 17.3. 1597 усе яны былі ўраўнаваны ў правах і судзіліся магістрацкім судом. З гэтага часу В. к. м. спынілі сваё існаванне як асобая група насельніцтва. Падчас «посполитого рушенья и потребы военной» усё мяшчанства Віцебска цалкам станавілася пад гарадскую харугву каля земскай Віцебскай харугвы.

*Літ.:* Лаппо И. И. К истории сословного строя Великого княжества Литовского: Конные мещане витебские в XVI столетии // Сборник статей, посвящённых В. О. Ключевскому. М., 1909. *М. А. Ткачоў.*

**ВІЦЕБСКІЯ МАРКСІ́СЦКІЯ ГУРТКІ́.** Першы такі гурток, заснаваны ў Віцебску ў 1892 А. Амстэрдамам, аб'ядноўваў каля 20 чал., у асн. інтэлігенцыю. У ім вывучаліся пераважна выданні групы «Вызваленне працы». Другі гурток, утвораны ў 1893 М. А. Сакоўнінам-Заслаўскім, П. Я. Дубінскай і Х. Усышкіным, рыхтаваў прапагандыстаў і кіраўнікоў гурткоў. Яго члены вывучалі і распаўсюджвалі творы К. Маркса, Ф. Энгельса, У. І. Леніна. Кіраўнікі гэтых гурткоў наладзілі сувязь з марксістамі Пецярбурга, Харкава і інш. гарадоў. У пач. сваёй дзейнасці гурткоўцы яшчэ не былі пазбаўлены ўздзеяння ідэалогіі народнікаў. У 1896 яны пачалі эканам. агітацыю сярод рабочых і рамеснікаў, што спрыяла стварэнню *Віцебскай рабочай арганізацыі 1896—97*, якую ўвосень 1897 узначаліў *Віцебскі сацыял-дэмакратычны камітэт Бунда.*

**ВІЦЕБСКІЯ ПАЛІТЫ́ЧНЫЯ ВЫСТУПЛЕ́ННІ РАБО́ЧЫХ 1899.** Адбыліся ў Віцебску летам — восенню 1899 пад уплывам агітацыі *Віцебскага сацыял-дэмакратычнага камітэта Бунда.* Сведчылі аб пераходзе рабочых ад эканам. да паліт. барацьбы супраць самадзяржаўя. Выступленні пачаліся забастоўкай і сходам 120 рабочых, прысвечаных 1 Мая. Гэта была першая на Беларусі першамайская забастоўка. 19—20.6 (1—2.7). 1899 адбыліся вулічныя маніфестацыі (каля 500 чал.) супраць улад і паліцыі ў сувязі з гібеллю ў паліцэйскім участку і пахаваннем удзельніка рабочага руху М. Ківенсона, які больш за 2 гады быў пад наглядам паліцыі. Суправаджаліся разгромам кватэры агента вышукнога аддзялення, сутыкненнямі з паліцыяй і салдатамі. Сацыял-дэмакр. к-т выдаў сваю першую адозву «Да віцебскіх рабочых», у якой абвінаваціў у смерці рабочага паліцыю, урад, самадзярж. рэжым царскай Расіі і заклікаў працоўных да аб'яднання на барацьбу за знішчэнне антынароднага ладу, за вызваленне рабочага класа, за роўнасць і свабоду. 4 ліп. каля магілы загінуўшага рабочага адбылася маніфестацыя (каля 400 чал.). У пач. жніўня па распараджэнні міністра ўнутр. спраў праведзены вобыскі і арышты актыўных удзельнікаў чэрвеньскай маніфестацыі. 17 (29) ліст. адбыліся забастоўка і вулічная дэманстрацыя (каля 400 чал.) у сувязі з провадамі навабранцаў. На вуліцах распаўсюджваліся брашуры У. І. Леніна «Новы фабрычны закон» і «Тлумачэнне закону аб штрафах, спаганяемых з рабочых на фабрыках і заводах» і інш. (усяго каля 300 экз.), пракламацыі с.-д. к-та, у якіх гаварылася пра цяжар ваеннай службы для працоўных, пра велізарныя сумы, што збіраюцца з народа на ўтрыманне арміі, на яе антынародныя функцыі. У дзень адпраўкі навабранцаў у многіх майстэрнях была спынена работа. Да зборнага пункта прыйшло каля 200 рабочых, але паліцыя іх разагнала. Каля 400 рабочых сабраліся ў прывакзальным скверы, дзе адбыўся мітынг. Маніфестацыя скончылася сутыкненнем з паліцыяй, 23 чал. арыштаваны. *М. В. Біч*

**ВІЦЕБСКІЯ ПАЎСТА́НЦКІЯ АТРА́ДЫ,** узброеныя фарміраванні ў паветах Віцебскай губ. ў час *паўстання 1863—64.* Падрыхтоўкай паўстання на Віцебшчыне пад агульным кіраўніцтвам віленскага паўстанцкага цэнтра займалася спецыяльна створаная мясцовая (ваяводская) арг-цыя, пра якую захавалася мала звестак. Дакументальныя крыніцы пра стратэгічныя і тактычныя планы і баявыя дзеянні В. п. а. абмежаваныя. Вядома, што асобную структурную адзінку (на правах ваяводства) складалі т. зв. Інфлянты — паўн. латгальскія паветы Віцебскай губ. Напярэдадні і ў перыяд паўстання на тэр. губерні ўзмоцнена вялася рэв. прапаганда, распаўсюджваліся *«Мужыцкая праўда», «Гутарка двух суседаў»* і інш. агітацыйныя выданні на бел., польскай, латышскай і рус. мовах. Важным цэнтрам падрыхтоўкі выступлення быў маёнтак Марыенгаўзен у Люцынскім пав.: тут назапашвалася зброя, гуртаваліся кадры паўстання [пад кіраўніцтвам А. Рыка (Рыцка)], была абсталявана друкарня рэв. арг-цыі «Зямля і воля». У сак. 1863 гэты асяродак быў выкрыты ўладамі, выяўленыя ўдзельнікі арыштаваны. Сярод галоўных прапагандыстаў і дзеячаў падрыхтоўкі паўстання ў Віцебску былі бел. пісьменнік А. *Вярыга-Дарэўскі,* бацька паэта Я. Вуля М. Карафа-Корбут і інш. У сувязі з неспрыяльным стаўленнем сялян паўстанне на Віцебшчыне не набыло шырокага размаху. 13 (25).4. 1863 у Дынабургскім пав. выступіла група Л. Плятэра. Ёй удалося захапіць пад Крэслаўкай транспарт са зброяй, але неўзабаве паўстанцы былі пералоўлены сялянамі, якія, скарыстаўшы момант, разграмілі мноства памешчыцкіх маёнткаў. Плятэра па загаду М. Мураўёва пасля кароткага фармальнага суда расстралялі ў Дынабургу. Агульнае ўзброенае выступленне на Віцебшчыне (як і на Магілёўшчыне) было прызначана на 23 крас. (дзень св. Юр'я па ст. ст.). Напярэдадні рэвалюцыйна настроеныя жыхары Віцебска, патрыятычная моладзь па аднаму і групамі выйшлі са зброяй з горада, каб далучыцца да паўстанцаў. Некаторыя з іх былі адразу схоплены на аршанскай шашы каля паштовай станцыі Дыманова (цяпер Віцебскі р-н). Тыя, хто застаўся на волі, ноччу спрабавалі напасці на станцыю, каб адбіць арыштаваных. Праз некалькі дзён група паўстанцаў-віцяблян (сярод іх і Я. Вуль) на чале з А. Казлоўскім здалася ўладам у Аршанскім пав. Улады не без падстаў меркавалі, што гэта група паспела далучыцца да аршанскага атрада І. Будзіловіча і ўдзельнічала ў няўдалым для паўстанцаў баі пад Пагосцішчамі (цяпер Лёзненскі р-н). Сфарміраваны на Дзісеншчыне паўстанцкі атрад Г. Дмахоўскага рушыў на Кублічы і Докшыцы, але 14 (26).5.1863 быў разбіты ў в. Парэчча Барысаўскага пав., камандзір загінуў. У Лепельскім пав. паўстанцкі атрад быў створаны О. Грабніцкім. Ёсць звесткі, што ў яго складзе

быў паэт Ф. *Тапчэўскі* з братам. Неўзабаве і гэты атрад быў рассеяны. Не здолела пратрымацца і паўстанцкая група, створаная ў раене Бешанковічы — Бачэйкава. Яе камандзір Дык быў схоплены і сасланы на катаргу. Паўстанцы з Барысаўскага, Сенненскага і Лепельскага паветаў збіраліся ў Валосавічах (цяпер Лепельскі р-н) пад кіраўніцтвам А. Кучэўскага і Жултко (псеўданім). Групу паўстанцаў з Лепеля сюды прывёў былы падпаручнік П Колб. 7(19).5 1863 аб'яднаны атрад быў разбіты каля в Падбярэззе (цяпер Барысаўскі р-н). Кучэўскі загінуў Схоплены праз некаторы час Колб быў расстраляны ў Дынабургу. На мяжы Себежскага і Дрысенскага пав. (у Юхнавіцкіх лясах) сфарміраваўся атрад былога артылерыйскага афіцэра Б Кульчыцкага 24.4(6.5) 1863 атрад разбіты, а Кульчыцкі, каб пазбегнуць палону, застрэліўся. Захаваўся загад паўстанцкага вайсковага начальніка Лепельскага пав. (прозвішча не названа) наконт захопу Бешанковічаў, Бачэйкава і паштовай станцыі Курылавічы. Паводле сведчання афіцыезнага гісторыка А. Карэева, які пісаў па свежых слядах падзей, «шайкі Себежскага пав, Полацкага, Віцебскага, Веліжскага і Лепельскага мелі намер, злучыўшыся, рушыць на Полацк, а потым на Віцебск». Паўстанцы меркавалі таксама захапіць Дынабург з багатымі арсеналамі зброі Але гэтыя планы не збыліся. У неспрыяльных умовах паўстанцкія атрады і групы Віцебшчыны гінулі або рассейваліся, не паспеўшы, як правіла, прыкметна разгарнуць дзейнасць. Сялян у паўстанцкіх шэрагах амаль не было, атрады фарміраваліся пераважна са шляхты, разначынцаў, дробных чыноўнікаў, навучэнцаў. Пасля задушэння паўстання многія ўдзельнікі В. п а. былі рэпрэсіраваны ці перайшлі на нелегальнае становішча.

*Літ* Кареев А Н Очерк о начале и ходе мятежа в инфляндских уездах М, 1873, Паўстанне ў Літве і Беларусі 1863—1864 гг М, 1965 (Восстание 1863 г Материалы и документы), Кісялеў Г Арцем Вярыга-Дарэўскі // Кісялеў Г Загадка беларускай «Энеіды» Мн 1971, Mieniecki R Wiosna 1863 r nad Dzwiną (Przyczynek do powstania styczniowego) // W drugą rocznicę 1922—18/IV—1924 Jednodniówka pamiątkowa Wilno, 1924 *Г В Кісялеў*

**ВІЦЕБСКІЯ ПРЫВІЛЕІ**, устаўныя граматы вял. князёў ВКЛ, якія фіксавалі нормы *Віцебскага права* Першы прывілей Віцебску быў дадзены ў 1390-х гадах Вітаўтам Прывілей 1503 Аляксандра, які захаваўся, быў пацверджаннем папярэдняга прывілея 1444 Казіміра IV. Прывілей 1503 пацвярджаўся граматамі вял. князёў ВКЛ у 1509, 1541, 1547, 1561 У выніку *Віцебскага паўстання 1623* Віцебск да 1641 быў пазбаўлены магдэбургскага права

**«ВІЦЕБШЧЫНА»**, зборнік артыкулаў (т. 1—2, 1925—28), выдадзены *Віцебскім акруговым таварыствам краязнаўства* на бел. мове ў Віцебску пад рэдакцыяй М І *Каспяровіча* Змешчаны артыкулы па гісторыі, архівазнаўстве, музейнай справе, архітэктуры, мастацтве, прыродазнаўстве, эканоміцы Віцебшчыны, матэрыялы пра дзейнасць Віцебскага акруговага т-ва краязнаўства, віцебскай філіі «Маладняка». У 1-м томе змешчаны «Кароткі нарыс гісторыі Віцебска» А Сапунова, арт. «Могільнік каля вескі Лятохі Віцебскага раена і акругі» А. Супінскага, «Музейныя помнікі старадаўніх Віцебскіх рамесніцкіх арганізацый» і «Кніга прывілеяў м. Віцебску» У Краснянскага, «Архівы і архіўная праца на Віцебшчыне» Б. Брэжгі, «А. П. Сапуноў і значэнне яго прац па даследаванню Віцебшчыны» М Багародскага, «Віцебская архітэктура ў гістарычнай перспектыве» М. Каспяровіча, «Беларускае мастацтва» І. Гаўрыса. У 2-м томе змешчаны «Прыгонная Віцебшчына» Супінскага, «Віцебскі дзяржаўны культурна-гістарычны музей» Я Васілевіча, «Матэрыялы да гісторыі беларускага малярства XVIII сталецця» М. Шчакаціхіна, «Віцебскія мастакі-граверы» І Фурмана, «Вобразнае мастацтва ў г. Віцебску» Гаўрыса, «Беларуская народная песнятворчасць» М. Анцава. *А М Падліпскі*

**ВІЦЕНЬ** (? — каля 1316), вялікі князь ВКЛ (каля 1295—1316). Звесткі пра паходжанне супярэчлівыя Паводле адных крыніц, ен родам з Жамойціі, другія называюць яго сынам *Трайдзеня*, трэція выводзяць В. з роду смаленскіх князёў Бел гісторыкі 19 ст М Без-Карніловіч і А. Кіркор лічылі В сынам полацкага князя *Гердзеня* Не ясна, кім ен даводзіўся *Гедзіміну*, бацькам або братам Найб верагодным здаецца сведчанне П. Дусбурга, што В. быў сынам Лютувера, які атаясамліваецца з Будзівідам (гл. ў арт. *Будзікід*). У 1291 Лютувер паслаў В. на палякаў. Супраць палякаў В выступаў таксама ў 1293, 1296, 1306, 1307. Вёў напружаную барацьбу з крыжакамі. Скарыстаў супярэчнасці паміж крыжакамі і Рыгай, з якой у 1298 заключыў саюз, што дало магчымасць адбіць крыжацкі наступ на Жамойцію. Паводле меркавання многіх даследчыкаў, у 1307 дапамог прагнаць з Полацка крыжакоў, але некаторыя гісторыкі лічаць, што Полацк ніколі не быў пад іх уладай. Як і Трайдзень, сялоў прусаў, якія ўцяклі ад нямецкіх заваеўнікаў, на Гарадзеншчыне, за што крыжакі помсцілі жорсткімі нападамі на гэту зямлю. Паводле позняга Васкрасенскага летапісу, В. прыбавіў дзяржаве шмат зямлі да Буга, уключыўшы ў яе склад Берасцейскую зямлю (1315). Захавалася мала звестак пра дзейнасць В унутры дзяржавы Вядома толькі, што ен, як і яго папярэднікі *Войшалк* і Трайдзень, змагаўся за адзінства дзяржавы. У 1294 задушыў паўстанне жамойцкіх феадалаў, якія схіляліся да саюзу з крыжакамі. Загінуў ад удару перуна

*Літ* Ермаловіч М Старажытная Беларусь Полацкі і новагародскі перыяды Мн, 1990 *М І Ермаловіч*

**ВІЦІНА**, старадаўняе драўлянае пласкадоннае рачное судна з палубай і парусамі. На ім перавозілі збожжа і інш. грузы. Вядома з 15 ст Даўжыня В. 43—45 м, шырыня 4—11 м, грузападымальнасць 128—192 т. Будавалася і хадзіла на Немане, Шчары, Віліі Пачало знікаць у 2-й пал. 19 ст., зрэдку выкарыстоўвалася на пач. 20 ст. *Н І Буракоуская*

**ВІЦКАЎШЧЫНА**, веска ў Фаніпальскім сельсавеце Дзяржынскага р-на, на р. Уздзянка. За 7 км на ПнУ ад Дзяржынска, 2 км ад чыг ст Фаніпаль. 43 жыхары, 17 двароў (1993) Вядома з 18 ст. як фальварак Радзівілаў З 1829 уладанне Вітгенштэйнаў, з 1879 — І А. Бунге, які пасля 1880 прадаў па надзелах зямлю суседніх фальваркаў В. і Казлоўшчына 15 сялянам З 1883 веска ў складзе Самахвалавіцкай вол. Мінскага пав. У канцы 19 ст 130 жыхароў, 17 двароў, у пач. 20 ст — 176 жыхароў, 28 двароў. У лютым — снеж 1918 акупіравана германскім, у ліп 1919 — ліп 1920 — польск. войскамі Да 1930 у Рубілкаўскім сельсавеце Самахвалавіцкага, з 1931 — Койданаўскага р-наў. 23.3. 1932 перададзена Мінскаму гарсавету, у 1934—38 у Мінскім р-не, у 1939—81 у Грычынскім сельсавеце Дзяржынскага р-на З 28 6 1941 да 6.7. 1944 акупіравана ням.-фаш захопнікамі У складзе калгаса «Кастрычніцкая рэвалюцыя» Радзіма гісторыка М. М *Улашчыка*

*Літ* Улашчык М Была такая веска Гіст -этнагр нарыс Мн, 1989

**«ВІЦЫ»**, Саюз сельскай моладзі Польскай Рэспублікі, сялянская рэфармісцкая дэмакр. арг-цыя моладзі Засн. групай дзеячаў Цэнтр. саюза сельскай моладзі. Дзейнічала на тэр. Польшчы і Зах. Беларусі (Ваўкавыскі, Гродзенскі і інш. паветы) у 1928—48. У Гал. ўправу «В.» ўваходзілі З Заленскі, Л Лютык, І Нецька і інш У 1929 аб'ядноўваў 22 тыс, у 1938 каля 100 тыс. членаў. Першапачаткова вёў пераважна асв -выхаваўчую работу. Моцны ўплыў меў у кааператыўным руху З 1931 узмацніў паліт дзейнасць У адносінах да рэжыму санацыі паступова перайшоў да апазіцыі, з 1931 заняў антыўрадавую лінію. Прыхільна ставіўся да сялянскіх партый У 1935 шэраг дзеячаў «В» ўвайшлі ў склад кіруючых органаў партыі «Стронніцтво людовэ», заняўшы ў ім левае крыло. Паступова Саюз перайшоў на рэв.-дэмакр. пазіцыі Мясц арг-цыі «В.» супрацоўнічалі з камсамольскімі арг-цыямі, удзельнічалі ў адзінафрантавых антыфаш. выступленнях 1936—37. У перыяд ням -фаш акупацыі некаторыя кіраўнікі «В.» ўзначалілі народны рух («Батальены хлопске») Саюз быў членам Славянскага саюза сельскай моладзі. У ліп 1948 «В.» разам з інш левымі арг-цыямі моладзі аб'яднаўся ў Саюз польскай моладзі

*Літ* Революционный путь Компартии Западной Белоруссии (1921—1939 гг) Мн, 1966, Полуян В А Революционно-демократическое движение в Западной

Белоруссии (1927—1939 гг.). Мн., 1978; Cimek H. Sojusz robotniczo-chłopski w Polsce, 1918—1939. Warszawa, 1989.

*У. А. Палуян.*

**ВІЦЬБІЧ** Юрка [інш. літ. псеўд. Крыжаніч Алесь; Стукаліч Юрый; сапр. Шчарбакоў Георгій; 2(15).6. 1905, г. Веліж Віцебскай губ., цяпер Смаленскай вобл.— 4.1.1975], беларускі пісьменнік, грамадскі і культурны дзеяч. З сям'і праваслаўнага святара. Скончыў педтэхнікум, аднак з-за сац. паходжання працаваць настаўнікам улады не дазволілі. У 1922—33 працаваў у Маскве на хімічным заводзе, у выніку няшчаснага выпадку атруціўся, стаў інвалідам. Пераехаў на Беларусь, удзельнічаў у напісанні гісторыі віцебскіх, гомельскіх і барысаўскіх фабрык. Удзельнічаў у Віцебскай, Гомельскай, Беластоцкай экспедыцыях, узначальваў Аршанскую па даследаванні, уліку і ахове помнікаў гісторыі, архітэктуры і мастацтва. Адшукаў у в. Крошын магілу бел. паэта П. Багрыма і ўстанавіў дату яго смерці. У час Вял. Айч. вайны знаходзіўся на акупіраванай тэр. Беларусі, працягваў працу па выяўленні і вывучэнні гіст. помнікаў. У 1943 перавёз з Віцебска ў Полацк урну з мошчамі Ефрасінні Полацкай. Чл. цэнтральнага ўрада Бел. культурнага згуртавання. Друкаваўся ў «Менскай газэце» (з лют. 1942 «Беларуская газэта»), «Беларускім работніку», «Раніцы». Падрыхтаваў да друку 3 нумары час. «Узвышша» (не выйшлі). У 1944—45 працаваў у землеўласніка ў Германіі, быў у лагеры для бежанцаў. Застаўшыся на тэр. Зах. Германіі, у 1946 разам з Н. *Арсенневай* стварыў літ. згуртаванне і час. *«Шыпшына»*. У 1946 арганізаваў выданне часопіса праваслаўных беларусаў «Звіняць званы Святой Сафіі», у якім побач з матэрыяламі рэліг. зместу змяшчаліся артыкулы па гісторыі Беларусі, літ.-маст. творы. З 1948 рэдактар газ. «Беларускае слова». Затым пераехаў у ЗША. Друкаваўся на старонках выданняў «Беларусь», «Бацькаўшчына», «Запісы Беларускага Інстытута навукі і мастацтва», «Конадні», «Новое русское слово». Першае апавяданне «Млынарова рука» (аўтарская назва «Як загінуў Ясь») апублікаваў у час. «Узвышша» (1929). Пасля публікацыі атрымаў ліст ад К. Чорнага, што, па словах В., з'явілася дыпломам на годнасць пісьменніка. У 1932 выдаў першую кнігу «Смерць Ірмы Лаймінг». У 1934 падрыхтаваў да друку кнігу «Лшоно Габоо Бійрушалайм» («На наступны год у Ерусаліме»). Аднак цэнтр. аповесць з такой жа назвай, змешчаная ў час. «Полымя рэвалюцыі» (1933. № 2—3), атрымала адмоўную рэцэнзію ў друку, і кніга была забаронена за «нацыяналізм, прыхільнасць да класавых ворагаў і ўхваленне мінуўшчыны, за архіўнасць мовы». Рукапіс кнігі «Як ездзіў у Конга пан Прун'е» сам забраў з Дзярж. выд-ва БССР, не пагадзіўшыся з рэцэнзентам. У 1937 выдаў кн. «Формула супраціўлення касцей». Аўтар аповесцей і апавяданняў «Арцыбіскуп і смерд» (1931), «Ціхая Руба» (1932), «Мартын Путра» (1933) і інш. У 1944 у Берліне выдаў зборнікі публіцыстыкі ў серыі «Народная бібліятэка»: «Веліжскія паўстанцы» і «Нацыянальныя святыні». Аўтар кніг «Плыве з-пад Святое гары Нёман» (ч. 1, Мюнхен, 1956), «Мы дойдзем» (Нью-Йорк, 1974, на рус. мове), адзін з аўтараў зб. «Ля чужых берагоў» (Мюнхен, 1955). Працаваў над кнігамі «Антыбальшавіцкія паўстанні і партызанскае змаганне на Беларусі», «Не чарнілам, а крывёю» (зборнік успамінаў, 1-я ч. прысвечана паплечнікам, што загінулі ў БССР, 2-я — дзеячам бел. эміграцыі), хрэстаматыяй «Рэлігія ў творах беларускіх пісьменнікаў», урыўкі з якіх друкаваліся ў розных эмігранцкіх выданнях. Крыніцамі творчасці В. былі гісторыя Беларусі, хрысціянскія святыні, помнікі культуры. Пісаў у розных жанрах: маст. нарысы, эсэ, фельетоны, палемічныя артыкулы, абразкі, лірычныя імпрэсіі. Займаўся літ. крытыкай (арт. «Пісьменнік і гістарычная тэматыка», «Да 20-годдзя «Узвышша»). Пакінуў успаміны пра жыццё бел. пісьменнікаў. Імем В. названа бібліятэка ў Беларуска-амерыканскім грамадскім цэнтры «Белэр-Менск» пад Нью-Йоркам.

Ю. Віцьбіч.

*Тв.:* Плыве з-пад Святое гары Нёман // Спадчына. 1991. № 5—6.

*Літ.:* Юрэвіч Л. «Мы дойдзем!» Юрка Віцьбіч. знаёмства праз гады // ЛіМ. 1991. 8 лістап.

*Л. Н. Юрэвіч.*

**ВІШНЕВА,** вёска, цэнтр сельсавета ў Валожынскім р-не, на р. Гальшанка. За 22 км ад Валожына, 6 км ад чыг. ст. Багданаў, на аўтадарозе Валожын — Ашмяны. 200 двароў, 470 жыхароў (1992).

З 14 ст. ўваходзіла ў Крэўскае княства. У 15 ст. належала Слушкам, Осцікам, Сангушкам і Пацам. У 1424 віленскі кашталян П. Гедгаўд пабудаваў тут касцёл Наведання Марыі. У 2-й пал. 16 ст. В.— мястэчка, цэнтр гміны ў Ашмянскім пав. Віленскага ваяв. У 1600 В. і наваколле ў Пацаў купіў А. Храптовіч. У 1641 на месцы драўлянага касцёла пабудаваны мураваны. У 1780—1870 у В. працаваў металургічны з-д. Тут упершыню на Беларусі пабудавана доменная печ, былі плавільня, кузня, склад; штотыднёва выраблялася 600 пудоў жалеза; дзейнічалі плюшчыльная (пракатная) машына, ліцейня для плаўкі чыгуну, вадзяныя машыны, вадзяныя молаты, чыгунныя кавадлы і інш. Вырабляліся сашнікі, паласавое жалеза, адліўкі для с.-г. інвентару, пліт. У 1860 выраблена 10 тыс. пудоў чыгуну. Сталь для з-да набывалі ў Мінску і Вільні. У 1823 апрацавана 23 тыс. пудоў металу, у 1860—63 — больш за 20 тыс. пудоў. Да 1861 усе рабочыя былі прыгоннымі. Працавалі таксама з-ды шкляных вырабаў і цагельна-ганчарны, спіртзавод, сукнавальня, вадзяны млын. Кожны тыдзень праводзіліся таргі, 2 вял. кірмашы ў год. З 1775 працавала павятовая свецкая школа, у 1782 было 86 вучняў, у 1804—05 — 48. З 1793 у складзе Расійскай імперыі. У час паўстання 1794 праз мястэчка з Ашмян на Валожын праходзіў атрад паўстанцаў пад камандаваннем М. К. *Агінскага*. На металургічным з-дзе выраблялі зброю для паўстанцаў. У Айч. вайну 1812 праз

Да арт. Вішнева. Касцёл Марыі.

Да арт. Вішнева. Касцёл Марыі. Алтар.

В адступаў на У з рус. арміяй М. Б. Барклай дэ Толі, пад В. адбыўся бой. Мястэчка спалена войскамі Напалеона. Падчас паўстання 1863—64 у Польшчы, на Беларусі і ў Літве ў В. распаўсюджвалася газ. *«Мужыцкая праўда»*. Сяляне і рабочыя падтрымлівалі паўстанне. У 1864 пабудавана мураваная царква, адкрыта царк.-прыходская школа, нар. вучылішча (у 1885—92 навучэнцы), было яўрэйскае вучылішча (ешыбот). На месцы б. ліцейнага ўзнік масласырзавод. Храптовічы гандлявалі з Англіяй і Германіяй, прадавалі мяса, сыры, масла, воўну. У канцы 19 — пач. 20 ст. ў В. пабудаваны запалкавая ф-ка, майстэрня па вырабу безалкагольных напіткаў, алейня, воўначасальня, хлебапякарні, кузні, сталярні, шавецкія і кравецкія майстэрні, слясарня, бляхарня і інш. У 1-ю сусв. вайну ў 1915—18 праз мястэчка праходзіла лінія ням. абароны. В. было спалена, жыхары выселены. У жн 1919 — ліп. 1920 і ў сак. 1921 — вер. 1939 В. ў складзе Польшчы, цэнтр гміны Валожынскага пав. Навагрудскага ваяв. У 1920-я гады ў В. працавала каля 10 тыс. лесарубаў, возчыкаў і інш. Сярод іх вялі прапаганду і агітацыю чл. КПЗБ Дз. Д. Сівы, Л. Ю. Пятровіч, Б. Герзан і інш. У 1926 у В. праведзены першамайскі мітынг. У 1920-я гады ў В. касцел, царква, сінагога, польская 7-гадовая і яўрэйская школы, пошта, аптэка, бальніца, ветлячэбніца, 2 аптэчныя склады, лазня. З 1939 у БССР. У В. адкрыты беларускамоўныя школы. У 1940 — 300 двароў, 2,5 тыс. жыхароў. З 12.10.1940 В.— цэнтр сельсавета. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 да 6.7.1944 акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 257 дамоў, загубілі 2060 жыхароў. Пасля вайны веска адбудавана. У 1950 арганізаваны калгас. У 1970— 530 жыхароў, 152 двары. Цэнтр калгаса імя Горкага. У весцы сярэдняя школа, гіст.-краязнаўчы музей, Дом культуры, бібліятэка, дзіцячыя яслі-сад, бальніца, аптэка, Дом быту, сталовая, аддзяленне сувязі, 4 магазіны. Брацкая магіла сав. воінаў, магіла ахвяр фашызму, помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, помнікі архітэктуры — Казьмадзям'янаўская царква 19 ст., касцел Марыі 17 ст. У В. жыў і памер С. *Будны*, жыла (у пач. 20 ст.) і пахавана бел. паэтэса К. Буйло.

В.— радзіма У. Ф. Луцэвіч — жонкі Я. Купалы. *М. Б. Батвіннік*

**ВІШНЕ́ЎСКІ** Аляксей Федаравіч [н. 3.6. 1947, в. Альгомель Давыд-Гарадоцкага (цяпер Столінскага) р-на], беларускі гісторык. Д-р гіст. навук (1986), праф. (1989). Скончыў Магілёўскі пед. ін-т (1969). З 1969 на пед. рабоце. З 1977 ст. выкладчык, дацэнт, прафесар Акадэміі міліцыі МУС Рэспублікі Беларусь. Даследуе пытанні сац. эканам. развіцця гарадоў Беларусі ў 1830—50-я гады, гісторыі міліцыі Беларусі.

*Тв.:* Мануфактурное производство городов Белоруссии в 30—50-х гг. XIX в. // Вопросы истории. Мн., 1975. Вып. 2; Повинности городского населения Белоруссии в середине XIX в. // Там жа. 1977. Вып. 4; Рост численности населения городов Белоруссии во второй половине XIX в. // Там жа. 1978. Вып. 5; Туров (Ист.-экон. очерк). Мн., 1980 (разам з А. М. Літвіным); Милиция Советской Белоруссии в период иностранной военной интервенции и гражданской войны: Учеб. пособие. Мн., 1981. *У. М. Міхнюк*

М. П. Вішнявецкі.

**ВІ́ШНЕЎСКІ МЕТАЛУРГІ́ЧНЫ ЗАВО́Д.** Дзейнічаў у 1780—1870 у мяст. Вішнева Ашмянскага пав. (цяпер в. Вішнева Валожынскага р-на). Засн. на беразе р. Зах. Бярэзіна памешчыкам Храптовічам як мануфактура. Працаваў на мясц. балотнай рудзе, паліва (драўняны вугаль) нарыхтоўвалася ў навакольных лясах. Тут упершыню на Беларусі пабудавана доменная печ. Дзейнічалі таксама кузня, плавільня, склад. Частка выробленага чыгуну выкарыстоўвалася на адліванне рашотак, каласнікоў, крыжоў і інш. Астатні чыгун паступаў у плавільны цэх, дзе з яго рабілі жалеза. Ужо ў першыя гады працы прадпрыемства штотыднева давала 600 пудоў жалеза, за год (з-д працаваў 40 тыдняў) — 22—23 тыс. пудоў. Яно выкарыстоўвалася на выраб с.-г. прылад, прадметаў дамашняга ўжытку і інш. Частку жалеза куплялі мясц. рамеснікі. У час *паўстання 1794* выраблялася зброя для паўстанцаў. Пасля задушэння паўстання рус. войскі, якія занялі Вішнева, моцна разбурылі завод, але ён быў хутка адноўлены. У 1814 тут працавала 69 чал. (58 прыгонных і 11 вольнанаемных), было выраблена 3172 пуды чыгуну і 1952 пуды жалеза. У 1825 працавала 127, у 1828—119 рабочых. З жалеза рабілі сашнікі, ланцугі, кавадлы, восі да карэт, абсталяванне для млыноў і інш. У 1-й чвэрці 19 ст. завод меў 2 доменныя печы, 5 плавільняў, 3 склады гатовай прадукцыі. Самае вялікае каменнае памяшканне даўж. 92 сажні займаў ліцейны цэх. Працавалі плюшчыльная машына, 5 кавадлаў, 2 вялікія молаты (прыводзіліся ў рух пры дапамозе вады), 10 кавальскіх мяхоў і інш. У 1850 было больш за 120 рабочых, у 1853 — больш за 200. Да 1861 рабочыя былі прыгоннымі, пасля — вольнанаемнымі. Найбольшы аб'ём прадукцыі завод выпускаў у канцы 1850 — пач. 1860-х гадоў, у сувязі з вычарпаннем балотнай руды з мясц. радовішчаў у 1860-х гадах доменная вытворчасць спынілася, з-д стаў перапрацоўваць толькі прывазны метал. У 1870 з-за канкурэнцыі рус. і польскіх металургічных прадпрыемстваў з-д зачынены.

*Літ.:* Скальковский К. О горном промысле в Западной России // Горный журн. 1864. № 3. *М. Т. Раманоўскі*

**ВІШНЯВЕ́Ц** (да 1964 Гавязна 2-е), веска, цэнтр сельсавета ў Стаўбцоўскім р-не. За 17 км на Пд ад Стоўбцаў, на шашы Стоўбцы — Нясвіж. 661 ж., 212 двароў (1992).

У сярэдзіне 18 ст. побач з в. Гавязна (цяпер в. *Навапольцы*) і маенткам заснавана мяст. Гавязна. У 1742 бенедыкцінкамі тут пастаўлена уніяцкая царква, якая ў 1850 перабудавана пад праваслаўную. У 1773 у мястэчку 17 двароў, у 1801—19. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Расійскай імперыі ў Слуцкім пав. У 1845 адкрыта нар. вучылішча, у якім у 1892/93 навуч. годзе займаліся 44 хлопчыкі, у 1905/06 — 110 хлопчыкаў і 10 дзяўчынак. У 19 — пач. 20 ст. цэнтр Гавязненскай воласці Слуцкага пав. У 1861 138 ж., 18 двароў, у 1880—144 ж., 20 двароў, валасная ўправа, плябанія, карчма, штогадовы кірмаш; у 1897—215 ж., 31 двор, у 1908— 216 ж., 25 двароў. З 29.7.1920 цэнтр воласці Нясвіжскага пав. З 1921 у складзе Польшчы, цэнтр гміны Навагрудскага ваяв. У вер. 1921—257 ж., 46 двароў. З 1939 у складзе БССР, з 12.10.1940 цэнтр сельсавета Стаўбцоўскага р-на. У чэрв. 1941 — чэрв. 1944 акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1964 в. Гавязна 2-е перайменавана ў В. У 1970 у В. 307 ж., 87 двароў. Цэнтр калгаса імя І. Мічурына. У весцы сярэдняя школа, 2 б-кі, дзіцячы сад, бальніца, аддз. сувязі, магазіны. Помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. Помнік архітэктуры — царква Іаана Прадцечы 18 ст.

*Літ.:* Сыракомля У. Вандроўкі па маіх былых ваколіцах: Успаміны, дaслед. гісторыі і звычаяў: Пер. з пол. Мн., 1992. С. 77, 122. *В. У. Шаблюк*

**ВІШНЯВЕ́ЦКІ** Мікалай Пятровіч (1897, Магілёў — 1941), ваенны дзеяч. Скончыў Маскоўскую школу прапаршчыкаў (1916), Ваен. акадэмію імя Фрунзе. У 1917 па даручэнні ваен. арг-цыі Петраградскага к-та РСДРП(б) вёў антываен. прапаганду сярод салдат. За ўдзел у ліпеньскіх падзеях 1917 арыштаваны. Напярэдадні Кастр. ўзбр. паўстання стар. штаба Чырв. гвардыі Выбаргскага р-на Петраграда, камісар гвардыі Маскоўскага рэзервовага палка. У 1918 удзельнічаў у ліквідацыі *Доўбар-Мусніцкага мяцяжу 1918*, у барацьбе супраць германскіх акупантаў, чл. Вышэйшай ваен. інспекцыі, чл. РВС Рэзервовай арміі. З студз. 1919 чл. РВС Укр. фронту, з лета 1919 у 1-й Коннай арміі, камісар 11-й кав. дывізіі. У 1930-я гады на дыпламатычнай рабоце ў Японіі, потым на камандных пасадах у Чырв. Арміі. У 1938 беспадстаўна арыштаваны і засуджаны

на ссылку ў лагерах, дзе і памер У 1956 рэабілітаваны Яго імем названа вуліца ў Магілеве

*Літ* Корнилович Э А Революцией призванные Мн 1980 *Э А Карніловіч*

**ВІШНЯВЕ́ЦКІЯ,** Карыбут-Вішнявецкія, старадаўні княжацкі род герба «Карыбут» Свае паходжанне выводзяць з *Альгердавічаў* ад князя ноўгарад северскага Змітра Карыбута Альгердавіча Больш верагодна паходзяць ад князёў Нясвіцкіх з Валыні Родапачынальнік князь Міхайла Васілевіч Збаражскі (? — пасля 1516) валодаў замкам Вішнявец у Крамянецкім пав на Валыні, адсюль прозвішча В належалі вялізныя зямельныя абшары і маенткі на Украіне і Беларусі, у т л з 1509 Брагінская воласць У 16 ст В падзяліліся на дзве лініі старэйшую [пайшла ад старосты прапойскага, чачэрскага і варнянскага князя Івана Міхайлавіча (? — 1542)] і малодшую [пайшла ад старосты рэчыцкага князя Аляксандра Міхайлавіча (? — 1555)] Першая лінія ў мужчынскім родзе згасла ў 1744, другая — у 1673

Найбольш вядомыя сярод першай лініі

Змітро (Дзмітрый) Іванавіч (?—1563), дзяржаўца ванячыцкі (з 1547), староста чаркаскі (з 1551) Адзін з кіраўнікоў барацьбы запарожскіх казакоў супраць крымскіх татар, туркаў і малдаўскіх гаспадароў, бараніў граніцы ВКЛ на Пд, для чаго на дняпроўскім востраве Мал Хорціца пабудаваў крэпасць (каля 1554—55) Хадзіў на крымскіх татар і туркаў Пад імем Байда стаў прататыпам героя народных песень У знак пратэсту супраць загаду вял князя ВКЛ Жыгімонта Аўгуста спыніць напады на Крым і Турцыю ў 1557 перайшоў на службу да рус цара Івана IV Грознага, які даў яму ў валоданне горад Бялёў і даручыў камандаваць атрадам на паўд мяжы Рускай дзяржавы Двойчы ўдзельнічаў у паходах рус войска ў Крым У час Лівонскай вайны 1558—83 уцек з Масквы (1563), заручыўшыся лістом вял князя ВКЛ з дазволам на зварот У 1563 малдаускія баяры, незадаволеныя сваім гаспадаром Стэфанам IX, запрасілі Змітра Іванавіча на малдаўскі трон, але яго атрад быў разбіты ў бітве з войскамі Стэфана IX, В трапіў у палон, пакараны смерцю ў Канстанцінопалі (Стамбуле)

Канстанцін Іванавіч (?—1574), брат Змітра Іванавіча, староста жытомірскі На Люблінскім сейме 1569, прымаючы прысягу на далучэнне Валыні да Польшчы, ад імя валынскіх магнатаў папярэдзіў Жыгімонта Аўгуста аб неабходнасці захаваць у ваяводстве праваслаўнае веравызнанне і ўкраінскую мову ў справаводстве

Канстанцін Канстанцінавіч (1564—1641), ваявода бэлзскі (1636) і рускі (1638), староста чаркаскі (з 1623) і крамянецкі У 1595 перайшоў у каталіцтва, пазнаемў *Ілжэдзмітрыя I* са сваім сваяком Юрыем Мнішкам З атрадам добраахвотнікаў з шляхты і вайсковых людзей удзельнічаў у паходзе Лжэдзмітрыя I на Маскву (1604—05) Пасля гібелі апошняга вярнуўся на Украіну, але неўзабаве з новым атрадам удзельнічаў у аблозе Троіца-Сергіева манастыра, у 1617—18 — у паходзе каралевіча Уладзіслава на Маскву Калі ў 1631 згас род князёў Збаражскіх, атрымаў іх зямельныя ўладанні на Украіне

Януш Антоні (1678—18 1 1741), староста пінскі, падчашы літоўскі (1697), маршалак надворны літоўскі (1699), кашталян віленскі (1702—03), ваявода віленскі (1704), ваявода кракаўскі (1706), кашталян кракаўскі (1726) Удзельнічаў у барацьбе шляхты Літвы і Беларусі супраць засілля Сапегаў у ВКЛ

Міхаіл Сервацы (13 5 1680—16 9 1744), брат Януша Антонія Маршалак канфедэрацыі (1700), гетман польны літоўскі (1702—03, 1707—35), гетман вял літоўскі (1703—07, з 1735), кашталян віленскі (1703—06), ваявода віленскі (1706—07, з 1735), канцлер вял літоўскі (з 1720), рэгіментар войска ВКЛ (1730), староста пінскі, ваўкавыскі, мярэцкі, вілкавішскі У 1707 паводле пагаднення з каралем Станіславам Ляшчынскім адмовіўся ад булавы гетмана вялікага і пасады ваяводы віленскага застаўшыся гетманам польным У 1709 быў арыштаваны і вывезены ў Расію, у 1710 вярнуўся ў Рэч Паспалітую і эмігрыраваў На радзіму вярнуўся ў 1716 Пісьменнік і паэт Апошні мужчына ў старэйшай лініі роду і ў родзе Пасля яго смерці ўладанні В перайшлі да Агінскіх і Замойскіх, потым да Плятэраў, Пшаздзецкіх, Бжастоўскіх і Вяльгорскіх

Да другой лініі В належаць

Адам Аляксандравіч (?—1622), уладальнік маенткаў на Беларусі і Украіне, актыўны прыхільнік праваслаўнай царквы ў Рэчы Паспалітай У 1601—03 у яго маентку ў Брагіне знаходзіўся Лжэдзмітрый I, які ўпершыню «прызнаўся» менавіта Адаму Аляксандравічу, што ен царэвіч Дзмітрый, сын Івана IV Грознага, цудам уратаваны ад смерці ва Угліччы Апошні прызнаў Ілжэдзмітрыя I царэвічам, падтрымаў яго і пазнаеміў з князем Канстанцінам Канстанцінавічам В і іншымі магнатамі Удзельнічаў у паходзе Лжэдзмітрыя I на Маскву У маі 1606 трапіў у палон і высланы ў Кастраму У 1607 вярнуўся на радзіму Разам з праваслаўным магнатам князем Раманам Кірыкавічам Ружынскім далучыўся да атрада ў некалькі тысяч коннікаў, які разам з *Ілжэдзмітрыем II* пайшоў на Маскву Аднак Адам Аляксандравіч у хуткім часе вярнуўся

Ірамія Міхал Міхайлавіч (1612—20 8 1651, укр казакі звалі яго Ярэма), пляменнік Адама Аляксандравіча Буйны магнат на Украіне, ваявода рускі (1646), староста гадзяцкі, канеўскі, пшэмыскі Першапачаткова праваслаўны, падчас вучобы ў езуіцкай школе ў Львове перайшоў у каталіцтва (1631), стаў гарачым прыхільнікам яго распаўсюджання, але карыстаўся і польск і укр мовамі Яго валоданні («панства», «дзяржава») на Украіне складаліся з 56 гарадоў, мястэчак і весак (цэнтр г Лубны) і займалі большую частку цяперашняй Палтаўскай вобл Меў таксама маенткі і крэпасці на Валыні і Палессі, 12-тысячнае войска, прымаў замежных паслоў Удзельнічаў у вайне Расіі з Рэччу Паспалітай 1632—34 Узначальваў групоўку магнатаў, якая выступала супраць цэнтралізацыі ўлады ў Рэчы Паспалітай, патрабаваў ад караля Рэчы Паспалітай рашучых дзеянняў па задушэнні антыфеадальнай вайны 1648—51, у выніку якой страціў большасць сваіх маенткаў На пачатку вызв вайны на Украіне фактычна ўзначаліў процідзеянне паўстанцам-казакам і сялянам, вёў з імі жорсткую барацьбу Памер пасля перамогі над арміяй Б Хмяльніцкага каля Берастэчка

Міхал (31 7 1640—10 11 1673), сын Ірамii Міхала Кароль Рэчы Паспалітай [1669—73] Падчас яго кіравання дзяржавай узмацніліся феад міжусобіцы (4 з 6 сеймаў сарваны шляхецкімі дэпутатамі паводле права «ліберум вета») і толькі напад Турцыі вясной 1672 і захоп турэцкім войскам Камянца-Падольскага прадухілілі грамадзянскую вайну Туркі вымусілі караля Рэчы Паспалітай заключыць ганебны Бучацкі мір 1672, паводле якога Падолля адыходзіла да Турцыі Але сейм Рэчы Паспалітай не зацвердзіў мірнага дагавора і вайна аднавілася Па дарозе ў войска, якое збіралася каля Хоціна, памер у Львове

*Літ* Длугопольский А Вишневецкие князья его // Вестник Западной России 1868 Кн 6—8 Голобуцкий В А Запорожское казачество Киев 1957 Kojałowicz W W Herbarz rycerstwa Kraków 1897 S 96—97 Niesiecki K Herbarz Polski Lipsk 1842 T 9 S 345—363 Boniecki A Poczet rodow w Wielkiem Księstwie Litewskiem w XV i XVI wieku Warszawa 1887 S 367—377 Wolff J Kniaziowie litewsko ruscy od konca czternastego wieku Warszawa 1895 S 552—576 Dworzaczek W Genealogia Warszawa 1959 Tabl 176 *А П Грыцкевіч*

**ВІ́ШЧЫН,** гарадзішча канца 11 — сярэдзіны 13 ст паміж в Вішчын і Кісцяні Рагачоўскага р-на, на правым высокім беразе Дняпра Пляцоўка паўкруглая плошчай 0,63 га З боку поля ўмацавана 3 паралельнымі лініямі валоў і равоў, якія складалі паласу абароны шырынёй каля 30 м З боку ракі абмежавана стромкім абрывам рачной тэрасы Вышыня вонкавых валоў 2,5—3 м, унутранага — каля 4 м, глыбіня равоў 3,5 м Адкрыта ў 1873, абследавалі ў пач 1880-х гадоў С Ю Чалоўскі, у 1931 А М Ляўданскі, у 1950 Ю У Кухарэнка, у 1956 В М Мельнікоўская, даследаваў у 1976—85 Э М Загарульскі Культурны пласт 0,4 м у цэнтры пляцоўкі, 1,5 м на краі каля ўнутранага вала Гарадзішча пабудавана на месцы стаянк эпох мезаліту і ранняга неаліту На грэбені ўнутранага вала выяўлены рэштк згарэлай абарончай сцяны, пабудаванай з гарызантальна пакладзеных бярвён умацаваных карoткімі папярочным сценкамі Каля падножжа ўнутранага вала прасочана яшчэ адна сцяна з габля

ваных дошак, якая адгароджвала вал ад участка забудовы. На пляцоўцы выяўлены рэшткі 6 наземных драўляных пабудоў, размешчаных уздоўж унутранага вала У 2 жытлах захаваліся рэшткі печаў і падлогі з дошак. У паўн. частцы гарадзішча знойдзены рэшткі свірна з абгарэлым зернем, у паўд.-зах.— майстэрні ювеліраў. Знойдзены разнастайны рэчавы матэрыял: гаспадарчы інвентар, прылады працы ювеліраў, шмат прадметаў ваеннай справы, конскай вупражы, вял колькасць бытавых рэчаў і ўпрыгожанняў з каляровых і каштоўных металаў, пісалы, імпартны посуд. Каля крапаснай сцяны на вале выяўлены *Вішчынскі грашова-рэчавы скарб*, закапаны, магчыма, у канцы існавання пасялення. Спалучэнне магутных абарончых збудаванняў з невялікімі памерамі ўмацаванай плошчы, наяўнасць сярод археал. знаходак мноства зброі і прадметаў ваеннага побыту, дарагіх замежных рэчаў дазваляюць аднесці гарадзішча да феадальнай сядзібы-замка. Знаходка віслай свінцовай пячаткі Мсціслава Расціславіча Храбрага сведчыць пра сувязь замка з дынастыяй смаленскіх князёў. Замак згарэў у час вялікага пажару

*Літ* Ваганава А М Умацаваныя феадальныя сядзібы XI — XIII ст // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі 1980 № 3, Загорульский Э М Исследования Вищинского замка // Древнерусское государство и славяне Мн, 1983
*А М Ваганава*

**ВІ́ШЧЫНСКІ ГРАШО́ВА-РЭ́ЧАВЫ СКАРБ.** Знойдзены каля в. Вішчын Рагачоўскага р-на ў 1979 у час даследавання крапаснай сцяны гарадзішча. Адзін з найбольш выдатных па мастацкай каштоўнасці скарбаў старажытнасці, знойдзеных на Беларусі. Складаўся з рэчавай і грашовай частак. Рэчы прадстаўлены ўпрыгожаннямі з высакапробнага серабра, якія належалі жанчыне, магчыма, княжацкага роду фрагменты караляў з 3 авальных залачоных пацерак і 4 крынападобных падвесак; 2 залачоныя колты з выявамі птушак на шчытках, выкананых у тэхніцы перагародчатай эмалі; зорчаты 6-прамяневы колт з зерню і колт з ажурным беражком і выявамі 2 птушак (тэхніка чэрні) і крына ў цэнтры; фрагменты ланцужкоў расен з цісненых калодачак-паўцыліндрыкаў, на якія падвешваліся колты; 2 падвескі з канічнымі вяршынямі і прымацаванымі да іх ланцужкамі з круглымі бляшкамі, упрыгожаныя сканню, зерню і скразнымі адтулінамі, апраўленымі дробнымі кольцамі; масіўны пласціністы залачоны бранзалет, скручаны з трох жгутоў з канцамі ў выглядзе стылізаваных галовак змей; двухстворкавы пласціністы залачоны бранзалет, арнаментаваны раслінным узорам і гравіраваны стылізаванымі выявамі птушак. Грашовая частка складалася з сярэбраных злiткаў-грыўняў. 2 наўгародскія, 8 літоўскіх, 6 кіеўскіх і 2 пальцы наўгародскага і літоўскага тыпаў. Ухаваны ў 2-й пал. 12—1-й трэці 13 ст. Зберагаецца ў нумізматычным кабінеце БДУ.

*Літ* Ваганава А М. Умацаваныя феадальныя сядзібы XI — XIII ст // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі 1980 № 3, Загорульский Э. М Исследования Вищинского замка // Древнерусское государство и славяне Мн, 1983 *А М Ваганава*

**«ВО СЛА́ВУ РО́ДИНЫ»,** штодзенная газета Мін-ва абароны Рэспублікі Беларусь. Выдаецца з 22.6.1921 у Мінску. Да 1947 выходзіла пад назвай «Красноармейская правда» на рус. мове (у 1934—35 і на бел. мове; у Вял. Айч. вайну таксама на узбекскай, таджыкскай, туркменскай і казахскай мовах) Да 1992 орган *Беларускай ваеннай акругі* (у 1941—44 газета Зах. фронту, у 1944—45—3-га Бел. фронту). У 1930-я гады на яе старонках выступалі сав. военачальнікі М. М. Тухачэўскі, А. І. Корк, А. І. Ягораў, Е. П. Убарэвіч, Г К. Жукаў, бел. пісьменнікі Я. Купала, Я. Колас, К. Крапіва, П. Броўка і інш. У Вял. Айч. вайну асвятляла баявыя дзеянні Чырв. Арміі, змяшчала публіцыст. і літаратурныя творы паэтаў, пісьменнікаў, у т. л. А. Твардоўскага (упершыню надрукавана паэма «Васіль Церкін»), К. Сіманава, А. Суркова і інш. З 1992 выдаецца на рус. і бел. мовах адначасова. Друкуе матэрыялы па гісторыі і ваен. гісторыі Беларусі, геральдыцы, нар. паданні пра заснаванне стараж. бел. гарадоў пад рубрыкамі «Беларусь. архівы часу», «Гісторыя: вырваныя старонкі», «Паходня», «Даведнік», «Айчына і вера», успаміны ўдзельнікаў Вял. Айч. вайны, рэцэнзіі на кнігі па гісторыі Беларусі.

**ВО́БЛАСЦЬ,** адм.-тэр. адзінка ў Рэспубліцы Беларусь. Утвараецца Вярх. Саветам рэспублікі Орган дзярж улады — абл. Савет нар. дэпутатаў (да 14.4. 1978 — абл. Савет дэпутатаў працоўных), выканаўчы і распарадчы орган — абл. выканаўчы к-т. Абласны адм.-тэр. падзел у БССР уведзены 15.1.1938, у выніку чаго ўся тэр Беларусі была падзелена на 5 абласцей: Віцебскую, Гомельскую, Магілеўскую, Мінскую і Палескую. Пасля ўключэння ў БССР Зах. Беларусі (12.11.1939) на тэр. апошняй 4.12 1939 утворана яшчэ 5 абласцей Баранавіцкая, Беластоцкая, Брэсцкая, Вілейская і Пінская. 20.9.1944 амаль уся Беластоцкая вобл. перададзена Польшчы, Вілейская вобл. перайменавана ў Маладзечанскую і ўтвораны Бабруйская, Гродзенская і Полацкая вобл. 8.1.1954 у сувязі з узбуйненнем абласцей скасаваны Бабруйская, Баранавіцкая, Палеская, Пінская і Полацкая вобл. 20.1.1960 скасавана Маладзечанская вобл. На 1 1. 1994 у Рэспубліцы Беларусь 6 абласцей: Брэсцкая, Віцебская, Гомельская, Гродзенская, Магілеўская і Мінская. Пра былыя і сучасныя вобласці гл. адпаведныя артыкулы.

*Літ* Административно-территориальное устройство БССР Справ Т 1—2 Мн, 1985—87 *М І Камінскі*

**ВО́ДНЫ ТРА́НСПАРТ,** від транспарту для перавозак пасажыраў і грузаў па водных шляхах. З глыбокай старажытнасці чалавек выкарыстоўваў рэкі як найбольш зручныя і танныя шляхі зносін для перавозкі грузаў. Густая рачная сетка Беларусі, наяўнасць буйных рэк — Зах. Дзвіна, Дняпро, Прыпяць, Бярэзіна, Сож, Зах Буг, Неман — садзейнічалі развіццю В. т. Спачатку чалавек карыстаўся асобнымі ствaламі дрэў, потым — плытамі, пазней — выдзеўбанымі са ствала дрэва чаўнамі Рэшткі такога чоўна часоў неаліту знойдзены на беразе р. Цна каля в. Зацэнне Лагойскага р-на Праз паўн. Беларусь па Зах. Дзвіне з усх. Латвіі ў познім неаліце (2-я пал. 3-га тысячагоддзя да н. э.) праходзіў шлях распаўсюджання бурштыну, які веў праз водападзел на Валдайскім узвышшы ў бас. Верхняй Волгі. У сярэдзіне 2-га тысячагоддзя да н. э. па Зах. Дзвіне і Дняпры праходзілі шляхі, якія звязвалі паўд. Прыбалтыку з эгейскімі гарадамі і інш. раёнамі Усх. Міжземнамор'я. Старажытнагрэч. вучоны Пталамей пісаў у 2 ст. да н. э., што Дняпро быў суднаходным па ўсім цячэнні, судны хадзілі ў двух напрамках: з Дняпра ў Прыпяць да вярхоўяў Ясельды і ўверх па Дняпры да вытокаў Зах. Дзвіны. У 9—10 ст. па водным *шляху «з варагаў у грэкі»* хадзілі ўжо караваны суднаў. Самыя старaж. судны ўсх. славян — *човен*, кары, *лодка*, ладдзя, *струг*. На «дубах» з чаротавымі снапамі ўздоўж бартоў для ўстойлівасці яшчэ ў 7 ст. хадзілі ў Візантыю Падобны «дуб», зроблены са ствала 700-гадовага дуба (даўжыня 13 м, макс шырыня 2,6 м), у 1966 знойдзены на абалоні р. Гарынь. На ладдзях у 9—10 ст. плавалі па Дняпры. У 11—12 ст. транзітны дняпроўскі шлях страціў сваё былое значэнне, пачалося ажыўленае суднаходства па Зах. Дзвіне, Нёмане, Зах. Бугу. У 1210, 1212 заключаны гандлевыя дагаворы Полацка з Рыгай, у 1229 — дагавор Смаленска, Полацка, Віцебска з Рыгай, ганзейскімі гарадамі. У сярэдзіне 13 ст. па Зах. Дзвіне і Каспці хадзілі дашчаныя ўчаны, з пач. 15 ст. на

Агульны выгляд гарадзішча Вішчын.

Немане, Шчары, Віліі вядомы *віцiны* Развіццё сусв. гандлю ў 15—16 ст., павелічэнне буд-ва марскога флоту ў Зах. Еўропе выклікалі вял. попыт за мяжой на пяньку, лен, смалу, паташ, лесаматэрыялы. Рост грузавых перавозак у канцы 16 — пач. 17 ст. абумовіў буд-ва рачных суднаў большага танажу — байдакоў, шкутоў, барак. З 1840—50-х гадоў байдак і віціну паступова выцесніла больш трывалая і зручная берліна, якая ў 1880-я гады была самым пашыраным відам суднаў на Беларусі. Вядомая з 15 ст. на Зах. Дзвіне і Віліі легкая і ўстойлівая лодка лайба ўдасканальвалася, павялічвалася ў памерах і з сярэдзіны 19 ст. выцесніла інш. судны ў гэтым рэгіене. У 1880—90-я гады лайбы ў бас. Зах. Дзвіны складалі каля 63 % усіх суднаў. Шкуты і чаўны перасталі існаваць з 1840-х гадоў, сплаў стругаў з Віцебска, Полацка і Веліжа спыніўся ў 1880-я гады, з Белага і Парэчча Смаленскай губ.— у пач. 20 ст. Барка на рэках Беларусі існавала да 20 ст. У канцы 19 ст. на буйных рэках з'явіліся баржы. Традыцыйныя бел. рачныя судны мелі рэгіянальнае пашырэнне Струг, шкут, лайбу будавалі на Зах. Дзвіне, віціну, бат — на Немане і Шчары, байдак, берліну, барку, лыжву — у бас Дняпра і Прыпяці, дубас, бат, галеру, шкут, лыжву — на Зах. Бугу, галяру (гіляру), люз, ганчак — на Дняпры. Асваенне Крыма і Прычарнамор'я патрабавала шмат лясных і лесахімічных матэрыялаў для буд-ва партоў, флоту. Таму з пач. 19 ст. адно з вядучых месцаў сярод пунктаў прызначэння грузаў з Беларусі занялі ўкраінскія партовыя гарады Екацярынаслаў, Крамянчуг, Херсон. З Крыма ўверх па Дняпры дастаўлялі хлеб, соль, тытунь. Праз Беларусь па рэках бас. Дняпра і Зах. Дзвіны везлі свае тавары ў Польшчу і Рыгу купцы з Масквы і Пецярбурга. Развіцце эканам. сувязей патрабавала паляпшэння водных шляхоў. У канцы 18 — пач. 19 ст. пабудаваны *Агінскі канал, Аўгустоўскі канал, Дняпроўска-Бугскі канал, Бярэзінская водная сістэма.* Будаваліся каналы мясцовага значэння абходныя вакол азер, дэрывацыйныя (для спрамлення рэчышча), злучальныя. *Заходняя экспедыцыя па асушэнні балот Палесся 1873—98* пад кіраўніцтвам І. І. *Жылінскага* праклала на Палессі каля 4800 меліярацыйных каналаў, якія выкарыстоўваліся для лесасплаву, пасажырскіх і грузавых перавозак У 19 ст перыядычна праводзіліся работы па ачыстцы рэчышчаў, бічоўнікаў, буд-ву прыстаней і інш. У 1-й пал. 19 ст на Беларусі склалася некалькі асн. магістральных напрамкаў суднаходства: Дняпро — Херсон — Чорнае мора; Зах. Дзвіна — Рыга; Дняпро — Бярэзіна — Бярэзінская водная сістэма — Зах. Дзвіна — Рыга; Прыпяць — Дняпроўска-Бугскі канал — Зах. Буг — Вісла; Прыпяць — Агінскі канал — Неман. У гэты час рачное суднаходства дасягнула свайго найвышэйшага развіцця. У 1830-я гады на Дняпры, Зах. Дзвіне, Немане і іх прытоках было каля 300 тыс. суднарабочых. Толькі па рэках Гродзенскай губ. ў сярэдзіне 19 ст. хадзіла штогод ад 1230 да 2266 суднаў і ад 1338 да 3900 плытоў. На іх сплаве было занята 14—28 тыс рабочых, у т. л. $^3/_5$ на суднах і $^2/_5$ на плытах. Сплаў плытоў з грузамі быў пашыраны ў 19 ст. на каналах, таму што буйнагабарытныя судны не маглі прайсці цераз шлюзы і іх даводзілася разгружаць на невял судны. Для перавозу грузаў, павозак, пасажыраў цераз рэкі ўжываўся паром. Толькі ў бас. Дняпра ў 1880-я гады дзейнічала 76 паромаў У 19 — пач. 20 ст агульная працягласць суднаходных шляхоў на Беларусі складала больш за 4 тыс км, а для плытагонства было прыгодна каля 10 тыс. км. Існавалі розныя спосабы перамяшчэння традыцыйных суднаў. Яны залежалі ад напрамку руху, канструкцыі і аснасткі судна, узроўню вады ў рацэ, наяўнасці ветру, стану фарватэра. Суднаходства ўніз па рацэ называлася сплаўным, уверх — узводным. Судны хадзілі на веслах, шастах, ветразях, а супраць цячэння акрамя таго і людской цягай (гл. *Бурлацтва*). Звычайна на працягу рэйса даводзілася прымяняць некалькі спосабаў суднаваджэння. На ветразях уніз па цячэнні судна магло прайсці каля 70 верст у дзень. На мелкаводдзі пры адсутнасці спадарожнага ветру судна ішло на шастах (ялінах, яллях, бусаках). Рабочыя (ялінщчыкі, ярлісы) упіраліся ў дно ракі канцом шаста з жалезным наканечнікам, налягаючы грудзьмі на верхні канец з драўлянай падушкай. Для ходу на шастах на кожным борце берліны было да 15 рабочых. За дзень на шастах судна праходзіла 6—15 верст, прыкладна такая ж скорасць была і на веслах. Кіравалі суднамі з дапамогай 2 рулявых веслаў, замацаваных на карме і носе. На барцы рулявыя веслы называліся пацэсь, на стругэ і байдаку — трапло. Суднавая каманда складалася з лоцмана, 1—2 вадалілваў, кашавара, травельшчыка, памочніка лоцмана і рабочых (рулявых, грабцоў). Колькасць рабочых залежала ад тыпу судна, напрамку руху, танажу. Для сплаву берліны дастаткова было 6—10 рабочых, а каб плыць супраць цячэння — 20—50. Для ўзводнага суднаходства на кожную тысячу пудоў грузу патрабаваліся 3 бурлакі. На Зах. Дзвіне лоцман называўся кормчы (корнік, кормшчык), на Немане — стырнік, на Зах. Бугу — ратман. У бел. гарадах 16—17 ст. кормчыя (стырнікі) уваходзілі ў склад рамесных цэхаў. Лоцман кіраваў рухам судна і адказваў за яго дастаўку на месца прызначэння. На Зах. Дзвіне найб вядомы былі кормчыя з Віцебска, Полацка, Парэчча, Белага, Чашнікаў, Бешанковічаў, Бачэйкава. У 1850-я гады з 9—10 тыс. суднарабочых на рэках Гродзенскай губ стырнікі складалі 7—8 %, г. зн. 700—800 чал. Рабочыя былі карэнныя і сходныя (сходачныя). Першыя наймаліся на працу зімой і загадзя рыхтавалі судна да веснавога сплаву, працавалі на працягу ўсей навігацыі або рэйса. Сходачных рабочых набіралі, як правіла, дадаткова на небяспечных участках ракі, на пэўныя адрэзкі шляху, а таксама для бурлацкай цягі У сярэдзіне 19 ст. за сплаў баркі па Дняпры ад прыстаней Мінскай губ да Екацярынаслава і Херсона лоцман атрымліваў 60—100 руб. і харчы, а рабочы 12—18 руб. на сваіх харчах, на Зах. Дзвіне заробак кормчага складаў 100 руб., яго памочніка (дзяціны) — 30—40 руб., травельшчыка 15 руб. на купецкіх харчах, простага рабочага 5—7 руб. без харчавання. Сплаў суднаў быў на Беларусі самым масавым пасля лесанарыхтовак і плытагонства адыходным промыслам. Да 1861 часта існавала прымусовая здача прыгонных сялян у наем купцам па дагаворах (кантрактах). «Правілы» 1838 і 1842 зацвердзілі парадак аддачы памешчыкамі зах. губерняў сваіх сялян на сплаў у Данцыг, Кенігсберг, Торн і інш. порты. Паводле сведчання П. В. Шэйна, у сярэдзіне 19 ст на Гродзеншчыне за кожнага закантрактаванага селяніна памешчык атрымліваў 50—60 руб., а выдаваў работніку за ўвесь перыяд навігацыі па Немане 3 руб

Суднаходства і суднабудаванне — стараж. занятак насельніцтва Беларусі Да канца 18 ст гэты занятак меў характар нар промыслу У 1785 на р Сож пабудавана Крычаўская суднаверф, у 1860-я гады заснаваны Пінскі суднабуд. з-д, а ў 1900—03 — суднарамонтныя майстэрні ў Віцебску і Гомелі. Тэхнічныя, канструкцыйныя прыемы суднабудавання бяруць пачатак у 9—12 ст. Спачатку судны выдзёўбвалі са ствала дрэва, пазней пачалі рабіць дашчаныя. З 16 ст. гэты тып пануючы. Будавалі судны з дубу, сасны, елкі, асіны. З 18 ст. ўжывалі пiлаваныя дошкі замест колатых. У дашчаных суднах днішчы і барты прымацоўвалі з дапамогай драўляных (нагелі) і металічных цвікоў, заклепак, прабояў, скоб і выкарыстоўвалі для гэтага какоры (копані, кручча) — абчасаныя бярвены з крывым карэнішчам, якія абшывалі дошкамі. Шчыліны канапацілі мачалам, мохам, пянькой, пакуллем, потым пакрывалі вузкім нашчыльнікам з дранкі (ласты) і замацоўвалі жалезнымі скобамі. Дно і бакі смалілі варанай смалой (варам, пікай). З улікам асаблівасцей мясц. рэк судны будавалі пераважна плаcкадонныя, легкія, з невял. асадкай, памеры іх залежалі ад шырыні фарватэра. Пашырэнне чыгуначных перавозак у 2-й пал. 19 ст. прывяло да змяншэння ролі В. т. і паступовага заняпаду нар промыслу па вырабе традыц. суднаў У гэты перыяд на бел. рэках паявіліся параходы, колькасць якіх з цягам часу павялічвалася.

У сучаснай Беларусі з традыц. тыпаў суднаў захаваліся ўдасканаленыя баржа і лодкі, пераважна дашчаныя На буйных рэках выкарыстоўваюць істотна зменены паром· замест ранейшых лодак (дубоў) плывучай апорай служаць метал пантоны. Самаходны паром, якім кіравалі з дапамогай шастоў, веслаў, каната (троса), саступіў месца парому з буксірам — катэрам. Суднабуд. прадпрыем-

ствы рэспублікі. Гомельскі і Пінскі суднабудаўніча-суднарамонтныя з-ды, Бабруйскі суднарамонтны з-д, Віцебская і Петрыкаўская суднарамонтныя майстэрні, Рэчыцкая суднаверф На рэках Беларусі эксплуатуюцца пасажырскія судны на падводных крылах, грузавыя і буксірныя цеплаходы, несамаходныя баржы.

*Літ* Сапунов А Река Западная Двина Витебск, 1893, Янсон Ю [Э] Пинск и его район Спб, 1869, Максимович Н И Днепр и его бассейн Киев, 1901 Опыт описания Могилевской губернии / Сост по программе и под ред А С Дембовецкого Кн 1—3 Могилев, 1882—84, Жучкевич В А Дороги и водные пути Белоруссии Ист-геогр очерки Мн, 1977, Данилюк А Пливе човен // Наука і суспільство 1981 № 8 *Н І Буракоўская*

**ВО́ДРУБ**, адасоблены надзел, вылучаны з сельскага абшчыннага землекарыстання ў асабістую ўласнасць сялянскай сямі. Узніклі В. ў 1907—16 у выніку *сталыпінскай аграрнай рэформы* побач з *хутарамі*, але ў меншай колькасці. У адрозненне ад хутара селянін не пераносіў сядзібу на свой участак, а заставаўся ў весцы. На Беларусі В. былі найбольш пашыраны ў Віцебскай і Магілеўскай губ.

*Літ* Дудкоў Д А Сталыпінская рэформа ў Віцебскай губерні Мн, 1931, Липинский Л П, Лукьянов Е П Крестьянское движение в Белоруссии в период между двумя революциями (июнь 1907 — февраль 1917 гг) Мн, 1964

**«ВО́ЖЫК»**, беларускі сатырычна-гумарыстычны ілюстраваны часопіс Упершыню выйшаў у ліп. 1941 як сатырычны плакат *«Раздавім фашысцкую гадзіну»*. Са жн. 1945 атрымаў статус часопіса пад назвай «Вожык», выдаецца ў Мінску на бел мове 2 разы ў месяц Змяшчае сатырычна-гумарыстычныя творы, фельетоны, карыкатуры, малюнкі. Друкуе творы бел. пісьменнікаў Я. Купалы, Я. Коласа, К. Чорнага, К. Крапівы, М. Лынькова, П. Броўкі, А Куляшова, П Панчанкі, М. Танка, Я. Брыля, А. Астрэйкі, В. Быкава, Р. Барадуліна, А. Макаенка, Н. Гілевіча, Г Бураўкіна, Б. Сачанкі, П. Місько і інш., мастакоў І. Ахрэмчыка, Л. Брадатага, В Букатага, Б Яфімава, В Казака, А. Волкава, В. Ціхановіча, М. Гурло, А. Чуркіна, Р. Грамыкі, С. Раманава, Я. Бусела, М. Гіргеля, А Гармазы, П. Козіча, А. Гурскага і інш., многія з якіх супрацоўнічалі і супрацоўнічаюць у часопісе. З 1957 выдае «Бібліятэку «Вожыка» *В У Блакіт*

Малюнак з час «Вожык». 1988, № 3

Малюнак з час «Вожык». 1984, № 4

**ВО́ЗЕМЛЯНСКІ БОЙ 1941.** Адбыўся паміж партыз. атрадам «Чырвоны Кастрычнік» (камандзір Ц П. Бумажкоў) сумесна з падраздзяленнем Чырвонай Арміі (камандзір палкоўнік Л В Курмышоў) і ням.-фаш. захопнікамі ў в. Воземля Акцябрскага р-на 18.7.1941. Партызанская разведка ўстанавіла сілы праціўніка і дакладнае размяшчэнне яго агнявых сродкаў 18 7 1941 па чыг ветцы Бабруйск — Рабкор браняпоезд № 52 (лейт. Калакольцаў) нечакана для гітлераўцаў падышоў да в. Воземля і адкрыў артыл. агонь па штабе ням. дывізіі і агнявых пунктах ворага Пасля артабстрэлу зводны атрад чырвонаармейцаў і партызан пад камандаваннем інструктара райкома партыі С В. Маханько атакаваў праціўніка. У выніку бою праціўнік страціў забітымі каля 80 салдат і афіцэраў, была вызвалена в. Воземля. Партызаны захапілі палонных і значныя трафеі. 55 броне- і аўтамашын, 2 радыестанцыі, 27 матацыклаў, 45 коней з павозкамі і грузам, аператыўныя дакументы ням штаба. Захопленых палонных, дакументы і трафеі партызаны перадалі камандаванню сав войск. *М Ф Шумейка*

**ВО́ЗЕРСКАЕ ПАТРЫЯТЫ́ЧНАЕ ПАДПО́ЛЛЕ** ў Вялікую Айчынную вайну. Дзейнічала з сак. 1942 да чэрв. 1943 у в. Возера Уздзенскага р-на. Састаўная частка *Уздзенскага патрыятычнага падполля* Кіруючае ядро Е. М. Курбыка (кіраўнік), С І Клімовіч, І. А. Лукашэвіч, Дз. К. Малашка, І. А. Манькоўскі, Н. Ф. Рыдзеўскі Падпольшчыкі трымалі сувязь з *Мінскім патрыятычным падполлем*, з партыз. атрадам імя 25-годдзя Кастрычніка, распаўсюджвалі зводкі Саўінфармбюро, падп. газ. *«Звязда»*, лістоўкі, вялі разведку, здабывалі для партызан зброю, медыкаменты, прадукты. У ліст. 1942 разам з партызанамі захапілі ў акупантаў нарабаваныя збожжа і крухмал; у снеж 1942 перадалі партызанам шмат боепрыпасаў, пішучую машынку; 21.6.1943 разам з партызанамі разграмілі гарнізон на крухмальным з-дзе «Каралева», захапілі шмат прадуктаў, зброю і боепрыпасы, узялі ў палон ням афіцэра і 27 паліцэйскіх.

**ВО́ЗНЫ**, службовая асоба земскіх судоў у ВКЛ. Прызначаўся ваяводам па прадстаўленні земскага суда і шляхты. У кожным павеце было некалькі В., галоўнага з іх называлі *генералам*. Пасля прыняцця прысягі прозвішча В заносілі ў земскія і гродскія кнігі. В. дастаўляў позвы асобам у суд (пры неабходнасці дастаўляў гэтых асоб у суд), уводзіў ва ўладанне зямлёю і маенткамі новых гаспадароў, загадваў сялянам падпарадкоўвацца ім. Таксама аглядаў месца і сляды злачынства, праводзіў апазнанне, допыт падазронага, сведак, пацярпелых, вызначаў памеры шкоды і інш. Вынік агляду і інш дзеянняў паведамляў суду пісьмовай рэляцыяй. Пры выкананні абавязкаў павінен быў мець пры сабе старану (панятых). Узнагароду за службу атрымліваў ад асоб, па справах якіх дзейнічаў Недатыкальнасць яго асобы ахоўвалася Статутам ВКЛ 1588. Там жа была вызначана і адказнасць В. за злоўжыванне і несумленнае выкананне абавязкаў — аж да пакарання смерцю. Да ўвядзення пасады В. яго абавязкі выконваў *віж.*

*Літ* Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 Тэксты Давед Камент Мн, 1989 *Г А Маслыка*

**ВО́ІН** (? — пасля 1341), князь полацкі. Брат вял. князя ВКЛ *Гедзіміна*. Згадваецца ў летапісных крыніцах пад 1326 у сувязі з літоўска-беларускім пасольствам у Ноўгарад. Разам з В. паслами прыехалі «мясцовы» князь Васіль і менскі Федар Святаславіч. Яны завяршылі перагаворы і ўсталявалі мір з наўгародцамі і немцамі (крыжакамі), што з'явілася вынікам доўгага супрацьстаяння пскоўска-наўгародскіх і бел. зямель крыжакам і канфліктаў паміж Полацкам і Ноўгарадам.

*Літ* Московский летописный свод конца XV века // ПСРЛ М, Л, 1949 Т 25 С 167 *С В Тарасаў*

**ВО́ЙНІЧ** Міхаіл Леанардавіч [псеўд. Кяльчэўскі Іван Міхайлавіч, Вільфрэд і інш; 31 10 1865, г Цельшы Ковенскай губ. (цяпер Цяльшай у Рэспубліцы Літва) — 17.3.1930], дзеяч народніцкага і польскага сацыялістычнага руху. З дваран. Вучыўся ў Шавельскай (цяпер г Шаўляй) гімназіі, Віленскім рэальным вучылішчы, Сувалкскай гімназіі. Пасля здачы экзаменаў пры мед. факультэце Маскоўскага ун-та атрымаў званне памочніка аптэкара. Яшчэ гімназістам далучыўся да рэв дзейнасці народнікаў. З іх дапамогай пазна-

ёміўся ў Маскве з дзеячам польскай рабочай партыі «Пралетарыят» (Вялікі) Л Яновічам Вёў нелегальную работу ў Расіі, Польшчы, на Беларусі, Украіне удзельнічаў у рэв прапагандзе, збіраў на яе патрэбы грошы, здабываў друкарскі шрыфт, фальшывыя пашпарты і інш Падтрымліваў цесныя сувязі з рэвалюцыянерамі Гродна, асабліва з кіраўніком мясцовай арг-цыі «Чырвоны Крыж» К П Стафаноўскім Разам з гродзенскімі нарадавольцамі, а таксама дзеячамі «Пралетарыяту» беларусамі В І Разумейчыкам, М А Манцэвічам і інш удзельнічаў у падрыхтоўцы плана ўцеку палітзняволеных з варшаўскай цытадэлі (з-за здрады правакатара план не ажыццёўлены) 12 10 1885 В арыштаваны і зняволены ў Варшаве У крас 1885 высланы на 5 гадоў ва Усх Сібір, адкуль летам 1890 з дапамогай нарадавольцаў уцек за мяжу Жыў у Лондане ў рус рэвалюцыянера і пісьменніка С М Сцепняка-Краўчынскага, там пазнаеміўся і ў 1892 ажаніўся з англійскай пісьменніцай Э Л Буль, якая перайшла на яго прозвішча Успаміны мужа пра дзейнасць на Беларусі і ў Польшчы дапамаглі ёй у працы над раманам «Авадзень» (упершыню перакладзены на рус мову мінчанкай З А Вянгеравай) В удзельнічаў у выданні ў Англіі час «Free Russia» («Свабодная Расія»), у 1891 разам з Сцепняком-Краўчынскім і інш народнікамі-эмігрантамі заснаваў Фонд вольнай рускай прэсы Перапісваўся з Г В Пляханавым, В І Засуліч, П Л Лаўровым, сустракаўся з Ф Энгельсам Спрыяў выданню ў Англіі прац рус публіцыста, сацыёлага і гісторыка В В Берві-Фляроўскага У 1894 з мэтай дастаўкі рэв літаратуры «ўсім нацыянальнасцям, што насяляюць Расійскую імперыю» муж і жонка В стварылі «Саюз кнiганошаў» У канцы 1890-х гадоў В адышоў ад паліт дзейнасці, заняўся росшукамі старадаўніх кніг, карт, гравюр Стаў вядомы як аўтар шматлікіх каталогаў рэдкіх кніг З 1920 жыў з сям'ёй у Нью-Йорку (ЗША), дзе і памёр Удава прысвяціла яму музычную араторыю «Вавілон»

*Літ* Таратута Е А Этель Лилиан Войнич Судьба писателя и судьба книги 2 изд М 1964 Я е ж По следам «Овода» 4 изд М, 1981 Я е ж История двух книг М 1987 Черепица В Принеманскими следами «Овода» // Гродненская правда 1991 21 и 23 авг *В М Чарапіца*

**ВО́ЙНЫ-ГРЫЧЫ́НАВІЧЫ,** шляхецкі род герба «Трубы» («Тромбы») Паходзіць ад Войны (упамінаецца ў 1528), аднаго з баяр Грычынавічаў з маентка Парэчча ў Пінскім пав Мелі значныя зямельныя ўладанні паміж Пінай і Прыпяццю

Найб вядомыя прадстаўнікі роду

М а ц е й (Мацвей, ? — ?), сын Войны, рэферэндарый і пісар ВКЛ, староста гердаўскі і паюрскі, намеснік перстуньскі і лабенскі (1558—60), падкаморы пінскі (з 1566) Удзельнік бітвы паміж войскамі ВКЛ і маскоўскім войскам пад Улай 1564 У 1567 са сваіх маенткаў Маладова, Любель і часткі Парэчча (усе ў Пінскім пав ) ставіў у войска ВКЛ 8 коннікаў Меў 6 сыноў і дачку Дароту (жонка С Белазора)

Л а ў р ы н (Ваўжынец, ? — 1580), сын Мацея, староста пінскі (1574—80), гарадзенскі, кобрынскі, дзяржаўца красніцкі (1560), квасоўскі (1562), пісар каралеўскі (1566), падскарбі надворны ВКЛ (1569—76), пасол соймавы (1569, 1578, 1580), падскарбі земскі (1576) У 1567 з выслужаных і купленых маенткаў (Роснае і Баршчова Берасцейскага пав, Ласосін, Свіслач, Путрышкі Гарадзенскага пав, Мератычы Наваградскага пав, а таксама з дзяржаў Квасоўскай, Красніцкай і Індурскай) ставіў у войска ВКЛ 35 коннікаў Меў 3 сыноў

Б е н я д з і к т (?—1615), сын Мацея, сакратар вял князя ВКЛ і караля Польшчы С Баторыя, прэлат кусташ віленскага капітула, пробашч трокскі, біскуп віленскі (1600)

С я м е н (?—1599), сын Мацея, маршалак (1584) і староста палангоўскі і горздаўскі, цівун ужвенскі, падчашы, кашталян мсціслаўскі (1588)

Г р ы г о р ы й (?—1603), сын Мацея, кашталян берасцейскі (1593), суддзя земскі ваўкавыскі, войскі гарадзенскі

С о к а л (?—1610), сын Мацея Харунжы ожскі і пераломскі, кашталян мсціслаўскі (1599), берасцейскі (1603) Меў сына Крыштофа, які карыстаўся прозвішчам Сокал-Война

Г а б р ы э л ь (?—1615), сын Мацея, пісар ВКЛ, староста мерацкі, пенянскі, апескі, падканцлер ВКЛ (1589), пасол соймавы (1590) Прымаў удзел у ваенных паходах С Баторыя, вызначыўся пры штурме Полацка, быў пасалом вял князя ВКЛ і караля Польшчы Жыгімонта III Вазы ў Маскву

М а ц е й (?—1606), сын Лаўрына, староста ўсвяцкі, палангоўскі, горздаўскі, паюрскі, пісар ВКЛ (1589), падскарбі надворны ВКЛ (1605) Быў жанаты з Эльжбетай Гаслеўскай (пазней жонка Геранíма Валовіча)

А н д р э й (?—1630), сын Лаўрына, дваранін каралеўскі, краўчы ВКЛ (1592), староста гарадзенскі, падчашы (1620)

В і н ц э н т (?—1615), сын Лаўрына, староста індурскі, палкоўнік каралеўскі (1605)

А б р а г а м (1569—1649), сын Сямена, канонік віленскі (1599), вікарый віленскі (1611), біскуп метонскі, жмудскі (1627) і віленскі (1630)

М і х а л (?—1634) сын Мацея, харужы жамойцкі, староста паюрскі, ротмістр каралеўскі Удзельнічаў у ваенных паходах ВКЛ

С т а н і с л а ў (?—1649), сын Мацея, староста палангоўскі, цівун гогдынскі, кухмістр ВКЛ (1640)

У л а д з і с л а ў (?—?), сын Мацея, цівун ужвенскі, староста горздаўскі

П е т р (?—1633), сын Андрэя, староста ваўкавыскі, падстолі ВКЛ (1631) Пакінуў сыноў Мацея, маршалка пінскага (1678) і Бенядзікта

Вядомы таксама шляхецкія роды В -Ясянецкіх уласнага герба, В -Аранскіх герба «Касцеша», В -Грэчыных герба «Корчак»

*Літ* B o n i e c k i A Poczet rodów w Wielkiem Księstwie Litewskiem w XV i XVI wieku Warszawa 1883 N i e s i e c k i K Herbarz Polski T 9 Lipsk 1842 W o l f f J Senatorowie i dygnitarze Wielkiego Księstwa Litewskiego 1386—1795 Kraków, 1885

*Р Б Баравы, В Л Насевіч*
*Л Л Чарняўская*

**ВО́ЙНЫ-ЯСЯНЕЦКІЯ,** шляхецкі род герба «Гакі» ў ВКЛ Яго паходжанне звязана з віцебскімі баярамі Рамейкавічамі Сын аднаго з іх, Война Богушавіч Рамейка, у сярэдзіне 16 ст служыў княгіні Астрожскай і яе другому мужу Альбрэхту Ляскаму, валодаў невял маенткам Ясенец на р Сэрвач у Наваградскім пав У 1567 ён выстаўляў у войска аднаго вершніка Яго нашчадкі — павятовая шляхта ў Віцебскім, Наваградскім і Мазырскім паветах — ужывалі прозвішча В -Я (зрэдку з дадаткам старога прозвішча Рамейка) і карысталіся ўласным гербам, які адрозніваўся ад герба астатніх Рамейкавічаў дадаткам паўмесяца з зоркай уверсе гербавай выявы З іх Ян (Іван) быў намеснікам віцебскага ваяводы ў 1591, 1597, Федар Мацеевіч у 1634 валодаў маенткам Ласосіна, Канстанцін у 1633—35 быў пісарам земскім віцебскім, Рыгор, мечнік мазырскі, заснаваў царкву ў Ясенцы Найб вядомы прадстаўнік роду Аляксандр (?—1698), войскі віцебскі кашталян наваградскі (1684), меў сына Стафана і дзвюх дачок, адна з якіх выйшла за Яна Тызенгаўза, а другая, Тэрэза, выйшла спачатку за Шымана Караля Агінскага, а пасля яго смерці (1699) за Станіслава Панятоўскага, падскарбія ВКЛ *В Л Насевіч*

**ВО́ЙСКІ,** службовая асоба ў Польшчы (з 13 ст) і ВКЛ (з 16 ст) У час войнаў, калі шляхта з паспалітым рушэннем пакідала маенткі, наглядаў за парадкам у павеце і апекаваў тых, хто застаўся ў маентках У Польшчы В былі гродскія і земскія, у ВКЛ толькі земскія (адзін на павет), якія падпарадкоўваліся старосце павятовага горада Пасада В ў ВКЛ была дыгнітарскаи (прыдворнай, гл *Дыгнітарыі*)

*У Вяроўкін Шэлюта*

**ВО́ЙСТАМ,** веска, цэнтр сельсавета Смаргонскага р-на За 20 км на ПнУ ад Смаргоні 346 жыхароў, 118 двароў (1992)

Згадваецца з 1460 пад назваю Ушакова У гэтым годзе Вайдыла і Ядалговічы заснавалі тут касцёл З пач 16 ст вядома пад назвай В У канцы 15—16 ст уладальнікамі былі Стафан Ядалговіч (Радзівіл), Талвошавіч, Буцвіловіч, Рачыевіч, Яновіч, Зяневічы, у 17 ст — Карэівы На карце Т Макоўскага (1613) В пазначаны як мястэчка У 16—18 ст у Ашмянскім пав Віленскага ваяводства ВКЛ Прывілеем караля Рэчы Паспалітай Міхала Вішнявецкага ад 1672 у В арганізаваны таргі У 18 ст належаў Храпавецкім і Бужынскім З 1795 у складзе Расійскай імперыі, у Ашмянскім, з 1842 у Свянцянскім пав З пач 19 ст уладанне Пшаздзецкіх З 1831 мястэчка

В. і маентак — дзяржаўная ўласнасць. У 1880-я гады 17 двароў, 189 жыхароў, касцел, школа, шпіталь, паштовая станцыя, карчма На пач 20 ст 279 жыхароў У 1-ю сусв. вайну акупіравана германскім войскам З 1918 занята Чырв Арміяй, польскім войскам. З 1920 у складзе Сярэдняй Літвы, з 1922 у Свянцянскім пав. Віленскага ваяводства Польшчы. З 1939 у БССР, веска, з 12 10 1940 цэнтр сельсавета Смаргонскага р-на. У час Вял Айч вайны ў 1941—44 акупіравана ням-фаш. войскам У 1970 306 жыхароў, 112 двароў У складзе калгаса «Праўда». Школа, клуб, бальніца, 3 магазіны Помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, помнік архітэктуры пач 20 ст — касцел Паблізу вёскі археал помнікі: гарадзішча і селішча 6—8 ст

*Літ* Kodeks dyplomatyczny katedry i diecezji wilenskiej T 1 Krakow, 1948

*В У Шаблюк*

**ВОЙТ,** 1) службовая пасада ў ВКЛ. Узначальваў мясцовае (гарадское або сельскае) кіраванне ці самакіраванне В. «мест, дворов и волостей господарских» (гл. *Воітаўства*) прызначаў вял. князь ВКЛ з заможных феадалаў або мяшчан, а прыватнаўласніцкіх гарадоў — іх уладальнікі Іншы раз В. выбіралі мяшчане, напр у Оршы (1559), Пінску (1581), Мазыры (1578). У гарадах, дзе існавала самакіраванне (перш за ўсе на У Беларусі), пасада В. ўводзілася да ўстанаўлення *магдэбургскага права* Увядзенне пасады В. пры адначасовым наданні гораду магдэбургскага права (часцей у цэнтр частцы і на З Беларусі) азначала стварэнне прадугледжаных гэтым правам органаў кіравання. Класічнае магдэбургскае права зводзіла ролю В. да старшынства на шэфенскім судзе *(войтаўска-лаўніцкім судзе).* Аднак на Беларусі В паступова набыў правы вышэйшай адміністрацыйнай улады і *войтаўскага суда.* Меў значныя крыніцы даходаў. Акрамя судовых пошлін, набыткам В. былі пэўная частка розных натуральных паборaў («провиант войтовский»), доля прыбыткаў ад рыначнага гандлю, утрымання корчмаў, крам, часам зямельныя падараванні. Прызначаныя В. часта перакладалі свае абавязкі на *ландвойтаў* (намеснікаў), варагавалі з гараджанамі. Дакументы змяшчаюць шматлікія скаргі на незаконныя дзеянні В.

2) Асоба, якая наглядала за працай прыгонных сялян і выкананнем імі павіннасцей. В., які кіраваў часткай маентка (ключом), называўся ключ-войтам

3) Кіраўнік гміны ў Заходняй Беларусі ў 1921—39.

*Літ* Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 Тэксты Давед Камеит Мн, 1989, Акты, относящиеся к истории Западной России Т 1 Спб, 1846, Копысский З Ю Социально-политическое развитие городов Белоруссии в XVI — первой половине XVII в Мн, 1975, Грицкевич А П Частновладельческие города Белоруссии в XVI — XVIII вв (соц-экон исслед истории городов) Мн, 1975

*Т І Доўнар*

**ВО́ЙТАЎСКА-ЛА́ЎНІЦКІ СУД,** адзін з мясцовых судоў для гарадскога насельніцтва ВКЛ. Дзейнічаў у гарадах, якія мелі грамату на *магдэбургскае права* Яго юрысдыкцыі падлягалі мяшчане. Справа таксама разглядалася, калі ў судовай спрэчцы ў якасці істца выступаў жыхар горада, які не меў прывілея на магдэбургскае права («не прывілеяванага»), або феадал ці залежны ад яго чалавек. З'яўляўся асаблівай судовай калегіяй у складзе *войта* і *лаўнікаў* За старшыню на судовых пасяджэннях быў войт, часам яго намеснік — *ландвойт* Колькасць лаўнікаў залежала ад памераў горада, напр, у 17 ст. ў Капылі і Нясвіжы іх было 4, у Гародні — 11, у Мінску і Берасці — 12 Пасяджэнне суда магло адбыцца пры ўмове, што прысутнічае не менш як палавіна лаўнікаў Разглядаў крымінальныя справы, маемасныя спрэчкі, сведчыў дагаворы куплі-продажу, завяшчанні маемасці і інш Судовыя рашэнні, кіруючыся законамі ВКЛ і меркаваннямі лаўнікаў, выносіў войт. За выкананне судовых функцый ен меў немалы прыбытак. Так, у 1688—89 войт Нясвіжа атрымаў за гэта па 400 злотых за год. У Гародні і Берасці па запісах у магістрацкіх кнігах назіраецца выразны падзел В.-л. с. і *бурмістраўска-радзецкіх судоў,* якія засядалі паасобку і толькі ў некаторых выпадках маглі засядаць разам У малых гарадах і ў большасці прыватнаўласніцкіх гарадоў лаўнікі, бурмістры і радцы ўваходзілі ў склад аднаго суда.

*Т І Доўнар*

**ВО́ЙТАЎСКІ СУД,** мясцовы суд у гарадах ВКЛ. *Войт,* які ўзначальваў адміністрацыю горада, меў права і «судити, сказывати и карати». У грамаце 1390 на магдэбургскае права Берасцю ўпамінаецца толькі адна крыніца ўлады і суда — войт. У грамаце 1498 Полацку гаворыцца: «Теж войт справедливости сказанья оприч бурмистров и радец моцне вчинити может, але бурмистры и радцы без войта або без лентвойта ни одного сказанья вделати не мают». В. с. мог дзейнічаць і ў гарадах, якія яшчэ не атрымалі магдэбургскага права. Каралева Бона ў 1551 запатрабавала, каб у вялікакняжацкіх гарадах судовыя спрэчкі паміж мяшчанамі староста разглядаў не адзін, а сумесна з гарадскім войтам і двума-трыма прысяжнымі. У многіх прыватнаўласніцкіх гарадах, дзе не было ўведзена магдэбургскае права, таксама дзейнічалі В. с. або *войтаўска-лаўніцкі суд.* У 16 ст. былі прызначаны войты з правам уласнага суда ў Сураж, Веліж, Магілёў і інш. гарады ВКЛ, якія не мелі магдэбургскага права. Поруч з В. с дзейнічалі *бурмістраўска-радзецкая суды*

*Літ* Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 Тэксты Давед Камеит Ми, 1989, Акты, относящиеся к истории Западной России Спб, 1846 Т 1 С 180, 1848 Т 3 С. 213

*Т І Доўнар*

**ВО́ЙТАЎСТВА,** 1) адм-гасп адзінка ў ВКЛ у 15—18 ст. У В. ўваходзілі адна або некалькі весак, што найчасцей складалі невялікае зямельнае ўладанне на вялікакняжацкіх землях, якім кіраваў сельскі *войт,* або горад, часам з навакольнымі землямі, якім кіраваў гарадскі войт. 2) Назва пасады войта паводле *Статута Вялікага княства Літоўскага 1588* («А пакеи бы в ключах або у войтовстве который шляхтич был...»).

*Т І Доўнар*

**ВО́ЙШАЛК** (1223—9 12 1268), князь навагрудскі [1254, 1258—63], вялікі князь ВКЛ [1263—67], сын Міндоўга У 1246 уцек з летапіснай Літвы ў Навагрудак з бацькам, разам з ім і многімі яго баярамі ахрысціўся паводле праваслаўнага абраду Пасля паражэння Навагрудка ў вайне 1248—54 у 1254 абраны яго князем Заключыў мір з Данілам Галіцкім, галоўным праціўнікам захопу Навагрудкам летапіснай Літвы Каб увайсці да яго ў давер, В. аддаў Навагрудскую зямлю Раману Данілавічу, сыну Данілы Галіцкага, а сам, відаць, у якасці заложніка, пайшоў у Галіцкую зямлю У Палонінскім манастыры прыняў манаскі чын і жыў там 3 гады З дазволу Данілы Галіцкага вярнуўся на бацькаўшчыну, дзе заснаваў Лаўрышаўскі манастыр, у якім некаторы час жыў. Каля 1258 у саюзе з полацкім князем Таўцівілам захапіў Навагрудак і зноў стаў яго князем У 1263—64 скарыстаў паліт. крызіс у балцка-літоўскіх землях, выкліканы забойствам *Міндоўга* і *Траняты,* і заваяваў летапісную Літву. Выганяў і знішчаў феадалаў, якія супраціўляліся навагрудскай уладзе. З дапамогай галіцка-валынскіх сіл заваяваў балцка-літоўскія землі Нальшчаны і Дзяволтву Уладу В прызналі і Полацк з Віцебскам, пра што сведчыць грамата полацкага князя Ізяслава, дадзеная каля 1267. Тэрыторыя Навагрудскай, Літоўскай, Нальшчанскай, Дзяволтваўскай і Полацка-Віцебскай земляў стала трывалым грунтам для ўтварэння ВКЛ, што і з'явілася важнейшым дасягненнем В. У 1267 ен перадаў вялікакняжацкую ўладу Шварну, за што быў забіты галіцкім князем Львом Данілавічам.

*Літ* Аповесць пра Міндоўга і Войшалка / Прадмова і пер В Чамярыцкага // Спадчына 1990 № 3, Ермаловіч М Старажытная Беларусь Полацкі і новагародскі перыяды Ми, 1990 С 320—325

*М І Ермаловіч*

**ВО́ЛАК,** волакі, старажытнарус. назва месца найбольшага збліжэння 2 суседніх суднаходных рэк, дзе карацейшым і найзручнейшым шляхам рачныя судны, чаўны перацягвалі (валаклі) на катках і колах па сушы або выгружаныя з іх тавары перавозіліся на фурманках ці пераносіліся з аднаго воднага басейна ў другі Вядомы па пісьмовых крыніцах *(«Аповесць мінулых гадоў», Дагавор 1229* і інш.) В. паміж верхнім Дняпром і левымі прытокамі Зах. Дзвіны, яе правымі прытокамі і Ловаццю, што злучалі адрэзкі *шляху з «варагаў у грэкі»* Адлегласць паміж крайнімі пунктамі В. звычайна не перавышала 20—30 км. В. маглі выкарыстоўвацца ў перыяд навігацыі (з вясны да восені) рэгулярна ці зрэдку, у абодвух напрамках руху ці ў адным, што залежала ад зручнасці перамяшчэння і прыроднага рэльефу мясцовасці, наяўнасці схілу

на водападзеле, балот, азер. Даследчыкі М. П Загоскін, В. А. Жучкевіч і інш. на аснове «волакавай» тапаніміі, аналізу тапаграфіі і геамарфалагічнага характару мясцовасці адзначылі на тэр. Беларусі каля 20 сярэдневяковых В., якія злучалі таксама левыя прытокі Прыпяці і правыя Дняпра з прытокамі Зах. Буга і Немана. Дадатковыя звесткі пра існаванне стараж.-рус. В. даюць археал. і нумізматычныя матэрыялы. Нярэдка на месцы В. сустракаюцца рэшткі стараж. паселішчаў і курганныя могільнікі, якія належалі насельніцтву, што абслугоўвала В., а таксама знаходзяць грашова-рэчавыя скарбы, захаваныя гандлярамі або мясц. жыхарамі ў час небяспекі Так, каля В паміж прытокам Бярэзіны р. Сергуч і прытокам Зах. Дзвіны р Эса знаходзяцца некалькі курганоў (Асецішчы Докшыцкага р-на, Домжарыцы, Ствольна Лепельскага р-на) і 2 вескі — Волак і Завалочча. Л В. Аляксееў і З. М. Сяргеева ў 1960—пач 1970-х гадоў праводзілі раскопкі курганных пахаванняў 10—12 ст. каля друцкага В., які злучаў стараж. гарады Друцк (на р. Друць, прытоку Дняпра) і Лукомль (на р. Лукомка, праз р. Усвейка, прытоку Зах Дзвіны), дзе таксама выяўлены розныя імпартныя рэчы (залачоныя пацеркі, бурштынавыя ўпрыгожанні, паліваная кераміка, чырвонагліняныя прычарнаморскія амфары, сярэбраны арабскі дырхем 10 ст.) і 2 манетна-рэчавыя скарбы сярэдзіны 11 ст. недалека ад в. Стражавічы (гл. *Стражавіцкія манетна-рэчавыя скарбы)* Пра існаванне В паміж вярхоўямі Мухаўца і Піны, які злучаў рэкі басейнаў Балтыйскага і Чорнага мораў, сведчаць назва «Мухаўлокі» і адкрыты ў г. п. Антопаль Драгічынскага р-на скарб арабскіх дырхемаў сярэдзіны 10 ст На магчымасць выкарыстання В. паміж прытокам Случы р. Морач і прытокам Немана р. Лоша ўказвае знаходка вял. скарбу зах.-еўрап. дэнарыяў, куфіцкіх дырхемаў і сярэбраных упрыгожанняў, ухаванага каля 1050 на месцы в. Дзягцяны (гл. *Дзягцянскі манетна-рэчавы скарб).* Стараж.-рус. В. выкарыстоўваліся не толькі ў гандлевых і гасп. мэтах для перавозкі грузаў, але і княжацкімі дружынамі ў час паходаў.

*Літ* Загоскин Н П Русские водные пути и судовое дело в допетровской России Ист -геогр исслед Казань, 1910 С 45—73, Буров В А Усвятский волок по археологическим данным // Вестн Московского ун-та Сер 9 История 1975 № 4, Алексеев Л В Полоцкая земля в IX — XIII вв (Очерки истории Северной Белоруссии) М, 1966 С 83—89, Сергеева З М Раскопки курганов на Друцком волоке // Краткие сообщения Ин-та археологии АН СССР М, 1974 Вып 139, Ляўданскі А М, Палікарповіч К М Археалагічныя доследы ў БССР у 1933—1934 гг // Зап БАН Мн, 1936 Кн 5, Жучкевич В А Дороги и водные пути Белоруссии Ист -геогр очерки Мн, 1977 С 20—30, Яго ж Топонимические свидетельства древних волоков на водоразделах Днепра и рек бассейна Балтийского моря // Топонимика на службе географии М, 1979

*В Б Перхаука*

**ВО́ЛАН** (Волян) Андрэй (пасля 1530, Польшча — 1610), ідэолаг рэфармац руху на Беларусі і ў Літве, палітычны дзеяч, філосаф і правазнаўца, адзін з заснавальнікаў свецкага кірунку ў сац-паліт. думцы. Пры падтрымцы Радзівілаў вучыўся ва ун-тах Франкфурта-на-Одэры і Кенігсберга. Выбіраўся паслом у сейм Рэчы Паспалітай ад шляхты Ашмянскага пав., дзе меў радавы маентак. Быў сакратаром каралеў Жыгімонта II Аўгуста, Стэфана Баторыя, Зыгмунта III Вазы Аўтар палеміка-тэалагічных твораў, палітыка-прававых і этычных трактатаў, прамоў. Пісаў пераважна на лац мове. Выступаў супраць асн. догматаў і арганізацыйнай будовы каталіцкай царквы і ў той жа час супраць радыкальных плыняў бел. рэфармацыі. Веў палеміку з езуітамі Яго творы былі занесены каталіцкім духавенствам у «Індэкс забароненых кніг». Антыкаталіцкія працы В перавыдавалі гугеноты Францыі і пратэстанты Германіі. У працах «Пра палітычную або грамадзянскую свабоду» (Кракаў, 1572), «Прамовы да сената...» (1572, выд. 1906, Кракаў), «Пра шчаслівае жыцце, або Найвышэйшае чалавечае дабро» (Вільня, 1596), «Пра гасудара і ўласцівыя яму дабрачыннасці» (Гданьск, 1608) выступаў за рэформы ў сац і паліт. адносінах, праве, дзярж. кіраванні. Распрацаваў канцэпцыю свабоды чалавека (абарона маемасці, асабістай бяспекі, свабоды веравызнання, усеагульнай згоды і міру ў грамадстве). Галоўныя рычагі ў перабудове грамадскіх адносін В бачыў ва ўмацаванні норм маралі, творчага выкарыстання норм закону і дэмакр інстытутаў. З пазіцыі тэорыі натуральнага права і агульнага дагавору ў гісторыі сацыяльна-паліт. думкі чалавецтва імкнуўся знайсці прыроджаныя якасці чалавечай натуры, напр, прыроджаны стан свабоды і роўнасці ўсіх людзей. Як прыхільнік гуманістычнага кірунку гіст. развіцця культуры Беларусі, стварэння прававой дзяржавы В. лічыў, што ўвасабленне гэтых якасцей у грамадскіх адносінах, дзярж.-паліт. і прававым рэгуляванні — задача і заканамерная неабходнасць мэтанакіраванай дзейнасці людзей

*Літ* Сокол С Ф Социологическая и политическая мысль в Белоруссии во II половине XVI века Мн, 1974, Падокшын С А, Шатон В К Андрэй Волан і яго трактат «Пра шчаслівае жыцце, або Найвышэйшае чалавечае дабро» // Весці АН БССР Сер грамад навук 1981 № 1, Памятники философской мысли Белоруссии XVII — первой половины XVIII в Мн, 1991

*С Ф Сокал*

**ВО́ЛАСЦЬ,** 1) сукупнасць зямельных уладанняў, якія належалі адной асобе, на Русі і ў ВКЛ. У гэтым сэнсе Іпацьеўскі летапіс у 1142 называе В. кіеўскіх князеў гарады Тураў, Клечаск і Случаск. У часы ВКЛ В. называлі комплекс паселішчаў, цэнтрам якіх быў адзін маентак, прычым такая В. не абавязкова ўтварала кампактны абшар. Паводле інвентара 1560, у В. дзярж. Аршанскага замка ўваходзілі селы Баева і Варанцэвічы, якія знаходзіліся на значнай адлегласці ад яго. Да сярэдзіны 16 ст ў такім жа сэнсе часам ужываўся тэрмін «павет».

2) Адм.-тэр адзінка на Русі і ў ВКЛ, населеная сялянамі *даннікамі*, якія ўтваралі тэрытарыяльную *абшчыну.* Як дзярж. уласнасць проціпастаўлялася *вотчыне* — уладанню на правах прыватнай уласнасці. На Полаччыне і ў Маскоўскай Русі ад В. адрозніваўся таксама стан, насельніцтва якога, верагодна, мела іншы характар павіннасцей (канкрэтныя адрозненні паміж В. і станам у 13—14 ст. даследчыкі вызначаюць па-рознаму; пазней гэтыя адрозненні сцерліся). В. звычайна ахоплівала 10—30 і больш сельскіх паселішчаў і складалася з тэрыторый сельскіх абшчын (у крыніцах ВКЛ іх звычайна называюць селамі). Акрамя земляў сельскіх абшчын, пэўныя тэрыторыі (сенажаці, бабровыя гоны, лясы) звычайна знаходзіліся ў карыстанні ўсей В Яна мела двайную сістэму кіравання З сялян для кіравання выбіраўся *соцкі* (у 15—16 ст.— *старац*). Ён выступаў пасрэднікам паміж В. і ўладай, пры дапамозе дзесяцкіх размяркоўваў павіннасці, збіраў падаткі. Інтарэсы дзяржавы прадстаўляў намеснік *(цівун)* з баяр (шляхты). Ён знаходзіўся ў валасным цэнтры (у час Кіеўскай Русі такім цэнтрам быў горад ці пагост, у ВКЛ — горад ці замак) і не меў права вольна ездзіць па В. з мэтай збору падаткаў. У абавязкі намесніка ўваходзілі прыем падаткаў ад старца, перасылка іх уладальніку В., суд па справах, якія не падлягалі кампетэнцыі абшчыннага *копнага суда*, а таксама арганізацыя будаўніцтва і рамонту замка сіламі насельнікаў В. З канца 14 ст. на зах. землях ВКЛ (у сучаснай Літве, апрача Жэмайты, Верхнім Панямонні, на Меншчыне, Берасцеишчыне) пачалося разбурэнне В Асобныя селы са складу В перадаваліся ў вотчыну шляхце, там узнікалі феад. двары, сяляне-даннікі ператварыліся ў *цяглых сялян* Да сярэдзіны 16 ст. амаль некранутыя шляхецкім землеўладаннем В. захаваліся толькі на У Беларусі, на землях, якія ў той час яшчэ называліся «Русь» (таму часам велікакняжацкія В Падняпроўя ў дакументах называліся «рускімі валасцямі»). Сярод іх найбуйнейшымі В. былі Азярышчанская (Езярышчанская) і Усвяцкая на Пн Віцебскага пав., Магілеўская ў Аршанскім пав., Барысаўская, Любашанская, Свіслацкая, Бабруйская ўздоўж р Бярэзіны, Крычаўская, Прапойская і Чачэрская ў Пасожжы, Гомельская, Рэчыцкая і Мазырская на ПдУ Беларусі. Аднак і ў гэтых В. асобныя селы перадаваліся вял князямі ў рукі шляхты. У некаторых выпадках жыхары працягвалі выконваць частку павіннасцей разам з усей В. (будаўніцтва замкаў, рамонт дарог і інш.) або новыя ўладальнікі атрымлівалі падатковы *імунітэт* і падданыя парывалі ўсе сувязі з В. Адначасова ўрад праводзіў наступленне на правы В.. намеснікі атрымлівалі дазвол непасрэдна збіраць павіннасці па селах, сяляне трацілі права выбіраць старцаў У 1547 вял князь Жыгімонт Аўгуст у адказ на скаргу сялян Чачэрскай вол. заявіў: «Ино што ся доты-

чит мыта и выбираня старца, то ест реч наша господарьская, а не ваша хлопская» У канцы 16 — пач 17 ст. ў «рускіх» В прайшла *валочная памера*, пасля чаго яны фактычна ператварыліся ў звычайныя дзярж. маенткі (Барысаўскае староства, Магілеўская эканомія і інш.). Гэта прывяло да зліцця паняцця В ў 1-м і 2-м значэннях

3) Адм.-тэр. адзінка ў Расійскай імперыі, у т. л. на Беларусі. Уведзена ў 1797 на казенных землях. Поруч з сельскай грамадой складала ніжэйшае звяно дзярж адміністрацыйнай сістэмы Уключала да 3 тыс. рэвізскіх душ. У ходзе *дзяржаўнай вёскі рэформы 1830—50-х гадоў* на Беларусі, у Літве і Правабярэжнай Украіне В. скасаваны. Паводле *сялянскай рэформы 1861* В уведзена для б памешчыцкіх, з 2-й пал 1860-х гадоў і для б дзярж сялян як вышэйшая адзінка саслоўнага сялянскага самакіравання, органамі якога з'яўляліся *валасны сход, валасное праўленне, валасны суд* Напачатку В. падпарадкоўвалася *міравому пасрэдніку*, потым *павятовым па сялянскіх справах установам*, пазней — *земскаму участковаму начальніку* Ахоплівала некалькі паселішчаў, што належалі звычайна да аднаго царкоўнага прыхода. На Беларусі ў сярэдзіне 1860-х гадоў былі 752 В., у 2-й пал. 1870-х гадоў — 688. В. уваходзіла ў адм - тэр. адзінку больш высокага рангу — *павет* («уезд») Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 у сувязі са стварэннем валасных *земстваў* В. фармальна стала адзінкай усесаслоўнага самакіравання, якое, як правіла, з'яўлялася сродкам улады заможнага сялянства. У першыя гады сав. улады з перадачай сялянам памешчыцкай і дзярж зямлі частка В. была раздроблена. У БССР В. скасаваны ў 1925 У Вял Айч вайну на акупіраванай тэрыторыі ням -фаш. захопнікі перайменавалі сельсаветы ў В.

*Кр* Полн собр законов Российской империи Собр 1-е Т 24 № 18082, Собр 2-е Т 13 № 11189, Т 14 № 13035, Т 36 № 36657 С 42—45, 69—110, Памятная книжка Виленского генерал-губернаторства иа 1868 год Спб , 1868, Волости и важнейшие селения Европейской России Вып 5 Спб , 1886

*Літ* Довнар-Запольский М В Очерки по оргвнизации западно-русского крестьянства в XVI веке Киев 1905, Любавский М К Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского статута [М, 1892], Павлов-Сильванский Н П Феодализм в России М , 1988 С 152—232, Дружинин Н М Государственные крестьяне и реформа П Д Киселева Т 1 М, Л , 1946, Ягож Русская деревня на переломе 1861—1880 гг М , 1978, Круталевич В А Административно-территориальное устройство БССР Мн , 1966

*В Л Насевіч, В П Панюціч*

**ВО́ЛАТЫ** (стараслав. велии — вялікія), персанажы беларускай міфалогіі. Уяўляліся ў выглядзе асілкаў велізарнага росту, якія раней за людзей насялялі Зямлю Паданні пра В распаўсюджаны і ў інш. усх.-слав. народаў. Ад слова «волаты» паходзіць нар назва *доўгіх курганоў — валатоўкі*, пашыраная на Пн Беларусі, у арэале рассялення *крывічоў*. Паводле зафіксаваных у многіх месцах паданняў, у валатоўках пахаваны асілкі-В У некаторых мясцовасцях Беларусі каня таксама называлі «волат», а жарабя — «валаток», «валаценак» Сучасныя даследчыкі В. У Іваноў і У. М Тапароў супастаўляюць такую назву каня з формулай у герм мовах «fur Wodans Pferd» («конь для Водана»). У шэрагу бел паданняў у выглядзе В выступае лясун, гаспадар лесу. Ва ўкр. мове есць слова «велетень» — чалавек велізарнага росту і сілы. У ваколіцах г Волагда (Расія) пры жніве аўса пакідалі нязжатымі некалькі «волотей» — пучкоў каласоў; існаваў звычай у час дажынак пакідаць «волотку на бородку» Сляды павер'яў пра В. захаваліся ў бел. тапанімii вёскі Валатоўкі (Лепельскі, Мёрскі, Расонскі, Шумілінскі р-ны), Валатава (Гомельскі р-н), Валаты (Слуцкі р-н), засценак Волатаў і ўрочышча Волаткава поле каля Барысава, сялянская грамада «Велетовская» ў б. Полацкім пав і інш. Паводле падання, у в. Валатава (Гомельскі р-н) у старажытнасці жылі В (асілкі) Урочышча Волатава поле было недалека ад г Ноўгарад (Расія). Адносна В. чэшскі славіст П. І Шафарык лічыў, што першапачаткова на ПнЗ Беларусі (мелася на ўвазе тэр Віленскай губ ) жыло племя велетаў, якое потым перасялілася на З і ўвайшло ў склад палабскіх славян. У 8—12 ст яно разам з усімі палабскімі славянамі змагалася супраць герм. заваёўнікаў. На думку Шафарыка, «гэты народ насіў два, ці яшчэ лепш, тры імены, г. зн. велеты, зменёнае немцамі ў вільцы і вельцы, люцічы і вълцы, вълчкі...» Аргументам на карысць апошняй назвы ен лічыў наяўнасць на Віленшчыне (нібыта першапачатковай радзіме люцічаў) вял. колькасці тапонімаў, якія паходзяць ад слова «воўк» За ваяўнічасць прадстаўнікоў гэтага племя германцы быццам бы празвалі іх лютымі або люцічамі Пра велетаў яшчэ ў 2 ст. н э пісаў Пталамей. Рус. філолаг і гісторык л-ры А. М. Весялоўскі ў працы «Руския і вільцины ў сазе пра Тыдрэка Бернскага (Веронскага)» (1906) звязваў паходжанне вільцінаў герм. эпасу з бел. паданнямі пра В. Да гіпотэзы Шафарыка становўча адносіліся В Ю Ластоўскі і Я. Ю Лесік. Тэорыю Шафарыка развіваў М. І. Каспяровіч, які ў апублікаваным у 1929 артыкуле пра валатоўкі прасачыў распаўсюджванне на тэр. Беларусі паданняў пра В. і звязаных з гэтым геаграфічных назваў, а таксама звязаных з В. курганоў-валатовак. Нязгоду з «волатаўскай» тэорыяй выказваў А. Ясінскі. У рэчышчы даследавання міфалогіі адным з першых аддаў увагу В. мовазнавец 19 ст А А Патабня, які прапанаваў этымалагічны ланцужок «волат — волотр — Вритра» (у стараж.-індыйскай «Рыгведзе» выступае велікан Врытра) Іваноў і Тапароў слова «В.» этымалагічна збліжаюць з імем паганскага бога Вялеса. Украінскі археолаг Ю. Г Пісарэнка мяркуе, што ў паданнях пра В спалучаліся стараж. уяўленні пра час і прастору. Язычнікі дзялілі год на 3 часткі (вясна — час сяўбы, лета — час росту, зіма — час падрыхтоўкі да новай сяўбы), што супастаўлялася з нараджэннем, жыццем і смерцю чалавека. Такім часавым адпавядалі прасторавыя ўяўленні пра 3 сусв. ярусы, з якіх падземны ярус асацыіраваўся з жыццевай зімой В. адносіліся да гэтага ніжняга «зімовага» свету і лічыліся не проста асілкамі, але і памершымі продкамі, якія былі пасрэднікамі паміж жывымі людзьмі і богам Вялесам і мусілі спрыяць будучаму ўраджаю. На думку Пісарэнкі, у святле гэтага і слова «валатоўкі» трэба тлумачыць як «магілы асілкаў». У Мёрскім і некаторых інш. раенах Ластоўскім адзначаны звычай на Радаўніцу перад наведваннем магіл блізкіх заходзіць на валатоўкі, каб пакінуць на кургане яйка і інш. ежу, а часам і пачаставацца.

*Літ* Ясінскі А Два словы аб волатах Да праблемы першапачатковага насельніцтва Беларусі // Зап аддз гуманіт навук БАН Кн 8. Мн, 1929 Працы клясы гісторыі, т 3, Каспяровіч М Валатоўкі і звязаныя з імі перажыткі (Першапачатковыя вынікі дослед ) // Наш край 1929 № 6—7, Бараг Л Г «Асілкі» белорусских сказок и преданий // Русский фольклор М , Л , 1963 Вып 8, Писаренко Ю Г О значении местного названия кургана «волотовка» // Актуальные проблемы историко-археологических исследований Тез докл Киев, 1987 С 129 Легенды і паданні Мн , 1983

*Э М Зайкоўскі*

А А Волах.

**ВО́ЛАХ** Анатоль Аляксандравіч (1917, Мінск — 1.10 1943), Герой Сав Саюза (1943). Працаваў на вагонарамонтным з-дзе У Вял. Айч вайну з 1941 на Паўд -Зах. і Варонежскім франтах. Сяржант В. у жн. 1943 з групай разведчыкаў знішчыў 2 і захапіў у палон 1 ням. афіцэра, у раене г Зяньков Палтаўскай вобл — аўтамашыну з афіцэрамі, важныя дакументы. У вер 1943 пры вызваленні г. Лебядзін Сумскай вобл. на бранеўвіку сярод першых уварваўся ў горад і веў бой з ворагам Загінуў у разведцы на шляху да Дняпра. Пахаваны ў г. Лебядзін. Яго імем названы вуліцы ў Мінску і Лебядзіне.

**ВО́ЛІН** Барыс Міхайлавіч [сапр Фрадкін; 1(13).6 1886, г Глыбокае — 15 2

1957], парт. і дзярж. дзеяч РСФСР і УССР, публіцыст, гісторык. Праф. (1939). Удзельнік рэвалюцыі 1905—07, Лют. і Кастр. рэвалюцый 1917, Вял. Айч. вайны Скончыў горнае вучылішча ў Екацярынаславе (1901), Маскоўскі ун-т (1917). У 1905 чл. Екацярынаслаўскага к-та РСДРП, у 1906—07 вёў парт. работу ў Бранску, на Урале, быў рэдактарам падп. бальшавіцкай газ. «Уфимский рабочий». Тройчы арыштаваны, у 1911—13 у эміграцыі. Пасля Лют. рэвалюцыі чл. Маскоўскага к-та РСДРП(б), супрацоўнік бальшавіцкай газ. «Социал-демократ». У перыяд Кастр. ўзброенага паўстання 1917 старшыня, потым чл. Замаскварэцкага ВРК. У 1918 адзін з рэдактараў газ «Правда», потым да 1921 старшыня губвыканкомаў у Арле, Кастраме, Харкаве, сакратар Бранскага губкома РКП(б), нам. наркома ўнутр. спраў УССР З 1925 нам. рэдактара газ. «Известия» ЦВК, у 1927—29 заг. аддзела друку Наркамата замежных спраў. З 1931 чл. калегіі Наркамасветы і нач. Галоўліта, адначасова дырэктар ін-та л-ры Ін-та чырв. прафесуры і рэдактар час. «Борьба классов». У 1935 заг. аддзела школ ЦК ВКП(б) У 1936—38 1-ы нам. наркома асветы РСФСР, рэдактар «Исторического журнала» (1936—45). З 1945 ст. навук. супрацоўнік Ін-та марксізму-ленінізму пры ЦК КПСС. Член ВЦВК у 1919—20.

*Тв* Всенародная партизанская война М , 1942, Статистика и политика 3 изд М , 1952, Ленин в Поволжье, 1870—1893 2 изд М , 1956

*Літ* Корнилович Э А Мастер агитации // Корнилович Э А На гребне истории Мн, 1989 *Э А Карніловіч*

**ВО́ЛКАЎ** Аляксей Аляксеевіч (1890, с. Дзмітрыеўскае Касімаўскага пав. Разанскай губ., цяпер Разанская вобл.— 1941), дзеяч КП(б)Б. З 1917 заг. аддзела выканкома Петраградскага Савета, потым на кіруючай парт., сав. і гасп. рабоце. З 11.8.1937 да ліп. 1938 в. а. 1-га сакратара ЦК КП(б)Б. З ліп 1938 1-ы сакратар Чувашскага абкома ВКП(б), старшыня СНК Чувашскай АССР. З мая 1940 на гасп. рабоце. Дэп. Вярх. Савета СССР з 1937

**ВО́ЛКАЎ** Валянцін Віктаравіч [7(19).4 1881, г Ялец Арлоўскай губ., цяпер Ліпецкая вобл.— 8.11.1964], бел жывапісец. Нар. мастак БССР (1955) Праф. (1957). Скончыў Пензенскае маст вучылішча (1907), Пецярбургскую АМ (1915). Удзельнік маст. выставак з 1903. Працаваў у жанрах тэматычнай карціны, партрэта, пейзажа, нацюрморта Выкладаў у Веліжскай маст школе (1919—23), Віцебскім маст. тэхнікуме (1923—29), у Бел тэатр.-маст. ін-це (1953—64). Пісаў на гіст. тэматыку У 1920—30-я гады стварыў шэраг манумент. твораў, у т. л. дэкаратыўны фрыз «Кастрычнік на Беларусі» для павільёна БССР на Усесаюзнай с.-г выстаўцы ў Маскве (1939); ілюстраваў і афармляў шэраг кніг для Дзярж. выд-ва БССР (1928—41) Стварыў сюжэтна-тэматычныя карціны, прысвечаныя гіст - рэвалюцыйнаму мінуламу Беларусі, падзеям грамадз. і Вял. Айч. войнаў «Кастусь Каліноўскі» (1923), «Партызаны» (1928), «Мінск. 3 ліпеня 1944 года» (1944—55), партрэты М. Багдановіча (1927), М Горкага (1951) і інш Аўтар малюнкаў дзярж. герба БССР (1926 і 1938).

*Літ* Элентух И Б В В Волков М , 1956 *В С Каваленка*

В В Волкаў. Мінск 3 ліпеня 1944 года 1944—55

**ВО́ЛМА**, веска, цэнтр сельсавета ў Дзяржынскім р-не, на р. Волма (левы прыток р. Іслач). За 30 км на ПнЗ ад Дзяржынска 113 двароў, 354 жыхары (1992)

У 2-й пал. 15 ст. належала старосце віленскаму Война Манівіду. У 1472 у В існаваў касцел, які адносіўся да Віленскага біскупства. У 1563 уладанне Альбрэхта Гаштольда, з 1581 — мястэчка ў Менскім пав. 55 двароў (1620) На працягу 17—19 ст. В належала Валадковічам, Філіповічам, Ваньковічам. У 1751 на месцы касцела 15 ст. пабудаваны драўляны Успенскі касцел (у 1886 перабсталяваны пад царкву, не збярогся) З 1803 мястэчка В. ўваходзіла ў Велікасельскую вол. Менскага пав. У пач. 19 ст на паўн ускраіне В. на беразе р. Валмянка сфарміравана сядзіба з паркам (захаваліся сядзібны дом, флігель, службовы корпус, парк), што належала Ваньковічам У 1861—66 у В. 14 двароў 93 жыхары, нар. вучылішча. У лют.— снеж 1918 акупіравана германскімі, у ліп. 1919 — ліп. 1920 — польскімі войскамі. У 1921—39 В. ў складзе Польшчы, з 1926 — цэнтр гміны. З 1939 у БССР, 12.10.1940 утвораны Валмянскі сельсавет у Івянецкім р-не. У Вял Айч вайну з чэрв. 1941 да 6.7.1944 акупіравана ням.-фаш. захопнікамі З 1950 цэнтр калгаса імя Леніна (цяпер калгас «Мір») З 25.12 1962 В. ў Стаўбцоўскім, з 6.1.1965 у Валожынскім, з 12 8 1970 у Дзяржынскім р-нах. 277 жыхароў, 102 двары (1970). Сярэдняя школа Дом культуры, б-ка, аддз сувязі, 4 магазіны, бальніца. Помнік архітэктуры і садова-паркавага мастацтва 19 ст — сядзіба

*Літ* Валаханович А И, Кулагин А Н Дзержинщина Прошлое и настоящее Мн , 1986

*М Б Батвіннік, В У Шаблюк*

**ВО́ЛЬБЕРАВІЧЫ**, Вольбаравічы, Ольбаравічы, веска ў Докшыцкім р-не За 14 км на У ад Докшыц, 26 км ад чыг. ст Параф'янава. 39 двароў, 75 жыхароў (1992)

Узнікла не пазней канца 15 ст на тэр ўладанняў паноў Манівідаў у стараж Харэцкай воласці. Адна частка гэтаи воласці перайшла ад Манівідаў да іх сваяка Алехны Судзімонтавіча, потым да яго зяця Станіслава Барташэвіча Мантоўта, другая — да Радзівілаў У абедзве часткі ўваходзіла пэўная колькасць сялян-даннікаў з селаў В. і Гняздзілавічы (цяпер в. Гняздзілава). Даннікі, што належалі Мантоўту, былі прыпісаны да яго маентка Салешнікі (цяпер г. Шальчынінкай у Літве) У пач 16 ст. яны адышлі да дачкі Мантоўта, жонкі віленскага ваяводы Я. Ю. Глябовіча, потым да дзвюх яе дачок, з якіх Ядвіга (памерла ў 1547) была жонкай М І Сапегі, а Хрысціна (памерла ў 1583) — жонкай Я. Ю. Камаеўскага У 1555 маенткі былі падзелены паміж Хрысцінай Камаеўскай і дачкой яе сястры Ганнай Сапежанкай. У дзялільным акце фігуруюць і 20 дымоў даннікаў з В. Там была царква. Пазней даннікі належалі мужу Ганны кн. А. Пронскаму і яго зяцю М. Язлавіцкаму, зяцю Хрысціны С. Нарушэвічу, дзецям апошняга У 1613 В. С. Нарушэвіч прадаў сваю частку В. і Гняздзілавіч за 20 тыс. коп грошаў Я. Рудаміну-Дусяцкаму. Адначасова другая частка В. належала біржанскай галіне Радзівілаў: у 1567 яны згадваюцца сярод маенткаў М. Ю. Радзівіла Рудога, які ў 1570 здаваў іх у «заставу» (заклад) В. Тышкевічу; у 1613 В. ўваходзілі ў спадчыну яго ўнука Ю. М. Радзівіла, што перайшла да яго стрыечнага брата Я. Радзівіла. У 17— пач. 18 ст. В. належалі Рудамінам-Дусяцкім, ад якіх былі закладзены кляштару кармелітаў у Глыбокім. Потым упамінаюцца ўжо як уласнасць кармелітаў Уваходзілі ў Ашмянскі пав. Віленскага ваяв У 1793 адышлі да Расійскай імпе-

ры, былі ў складзе Докшыцкага, з 1797 — Барысаўскага пав. У 1812 маентак кармелітаў В. ахопліваў 291 дым. Пасля паўстання 1830 — 31 канфіскаваны і ўзяты ў дзярж. скарб. Маентак налічваў 8 весак, яго тэрыторыя цягнулася ўздоўж левага берага р. Поня да ўпадзення яе ў Бярэзіну Пасля сялянскай рэформы 1861 В. ўвайшлі ў Тумілавіцкую вол У 1886 у В. 36 двароў, 350 жыхароў, праваслаўная царква. З 20.8.1924 веска В. ў Бярэзінскім сельсавеце Бягомльскага, з 20 1.1960 Докшыцкага, з 25.12.1962 Глыбоцкага, з 6 1.1965 Докшыцкага р-наў Перад Вял. Айч. вайной у В. 55 двароў, 197 жыхароў У 1941—44 акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў жн. 1943 спалілі веску і знішчылі большую частку жыхароў Пасля вайны адрадзілася. У складзе саўгаса «Камунар». У В. васьмігадовая школа, клуб, магазін (1992). Помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну.

*В Л Насевіч*

**ВО́ЛЬГА** (пасля хрышчэння А л е н а; ? — 969), вялікая княгіня кіеўская, жонка кн. *Ігара*, правіла ў гады маленства сына *Святаслава Ігаравіча*. Жорстка расправілася з драўлянамі, якія паўсталі ў 945 і забілі яе мужа за непамерную даніну, спаліла іх галоўны г Іскарасцень і загадала забіць каля 5 тыс. чал. Вызначыла памеры даніны і месцы яе збору — *пагосты*. «Аповесць мінулых гадоў» расказвае пра паход В. ўлетку 947 да Пскова, а *Віцебскі летапіс*, складзены ў 1768 Сцяпанам Аверкам, паведамляе (з памылковай датай 974 замест 947), што В «..перамогшы ятвягаў і печанегаў, пераправілася цераз раку Дзвіну, заначавала з войскам і, аблюбаваўшы гару, заклала драўляны замак, назвала ад ракі Віцьбы — Віцебскам, пабудавала ў верхнім замку мураваную царкву св Міхаіла, а ў ніжнім — Звеставання. Пражыўшы два гады, паехала ў Кіеў» Каб умацаваць гандлёвыя і паліт сувязі з Візантыяй, ездзіла ў Канстанцінопаль (957), прыняла хрысціянства. Кананізавана рус. царквою.

*Літ* Полное собрание русских летописей М, 1975 Т 32 С 193, Р ы б а к о ў Б А, А л я к с е е ў Л В Калі быў заснаваны Віцебск? // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі 1971 № 2, Ш т ы х о в Г В Города Полоцкой земли (IX—XIII вв) Мн, 1978

*Г В Штыхаў*

**ВО́ЛЬНА**, веска, цэнтр сельсавета ў Баранавіцкім р-не За 25 км на ПнУ ад Баранавіч, 14 км ад чыг. ст Пагарэльцы 341 двор, 898 жыхароў (1992)

Маентак В. вядомы з 2-й пал. 16 ст. як уладанне Хадкевічаў; у 1571 на тэр. сядзібы былі 4 дамы, скляпы («пўніцы»), бровар, інш. гасп. будынкі. Каля маентка размяшчаліся царква, млын, карчма. У 1632 падстолі навагрудскі Крыштоф Каменскі пабудаваў новую царкву, пры ей базыльянскі кляштар, які спачатку быў жаночы, пасля мужчынскі (ліквідаваны ў 1872). У 1768 базыльяне пабудавалі касцел Св. Тройцы. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай В. з 1795 у складзе Расійскай імперыі. Пры базыльянскім кляштары існавала школа, у якой вучыўся мастацтвазнавец, архітэктар і скульптар Р. Слізень. У маентку ен сабраў багатую мастацкую калекцыю. Некаторы час у маентку працаваў паэт Я. Чачот. У 19 — пач. 20 ст. В. належала Слізням, уваходзіла ў Навагрудскі пав. У 1880-я гады ў В. 61 двор, 470 жыхароў, школа З 1921 у Навагрудскім ваяв. Польшчы, з 27.12.1925 цэнтр гміны. З 1939 у складзе БССР, у Баранавіцкім пав., з 12.10.1940 цэнтр сельсавета Гарадзішчанскага р-на. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 да ліп 1944 акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 25.12. 1962 у Баранавіцкім р-не. У 1970 у В 1084 жыхары, 336 двароў. Цэнтр эксперыментальнай базы «Вольна-Чэрніхава». У В. Дом культуры, бальніца, аддз. сувязі, 4 магазіны, сярэдняя школа, бібліятэка. Брацкая магіла сав. воінаў і помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. Захаваўся помнік архітэктуры 18 ст.— Троіцкая царква.

*Літ* Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси Т 4 Вильна, 1867

*В У Шаблюк*

**ВО́ЛЬНАСЦІ ШЛЯХЕ́ЦКІЯ**, комплекс правоў і прывілеяў *шляхты* Рэчы Паспалітай 16—18 ст., на падставе якіх сфарміравалася ідэалагічная дактрына «залатой вольнасці» — культу павагі свабод кожнай асобы шляхецкага стану. Кансалідаванай польскай шляхце ўдалося заняць дамінуючыя пазіцыі ў дзяржаве і аслабіць уладу караля. Прывілеі, атрыманыя ею ў 14—16 ст. (ад Казіміра III Вялікага да Стэфана Баторыя), сталі асновай шляхецкай вольнасці, якая ўключала роўнасць усіх грамадзян шляхецкага стану перад законам (aegualitas), права на свабодную элекцыю караля, права кожнага шляхціца на свабоду голасу (libera vox) і права на пратэст (iusvetandi), а таксама недатыкальнасць асобы шляхціца і яго маентка. Прывілей 1588 не дазваляў праводзіць рэвізіі шляхецкіх дамоў нават тады, калі было вядома, што там хаваецца *вываланец* Тэарэтычна шляхціц не мог беспакарана толькі забіць, падпаліць, заняволіць інш. шляхціца, згвалціць кабету і рабаваць — на ўсё астатняе ен меў права. Правы і прывілеі шляхты юрыд. афармлены Статутамі ВКЛ 1529, 1566, 1588. В. ш маглі абмяжоўвацца толькі пастановамі соймаў і соймікаў, кароль без згоды пасольскай палаты не мог абкладаць падаткамі, збіраць паспалітае рушэнне, абвяшчаць вайну ці выдаваць уставы, якія б тычыліся шляхты. У 17 ст. абсалютызацыя В. ш. выклікала ўзрастанне паліт. анархіі ў Рэчы Паспалітай. Яны трактаваліся як аснова ўнутрыдзяржаўных узаемаадносін, у першую чаргу — паміж шляхтаю і каралем. Кожнае «парушэнне» вольнасцей успрымалася як імкненне да абсалютызму, кожная спроба правесці рэформы — як замах на шляхецкія вольнасці. Выкарыстанне права «Liberum veto» прывяло да таго, што з 1652 па 1763 з 73 адкрытых соймаў 37 было сарвана. Дзярж. ўлада паралізоўвалася, агульнадзярж. задачы прыносіліся ў ахвяру інтарэсам магнацка-шляхецкіх груповак У 18 ст. сярод інтэлектуальных колаў Рэчы Паспалітай узнімалася пытанне аб неабходнасці пашырыць правы асобы і грамадзянскія свабоды на ўсіх жыхароў, аднак паліт. сістэма заставалася нязменнай да канца існавання дзяржавы

*Літ* M a c i s z e w s k i J Szlachta polska i jej panstwo 2 wyd Warszawa, 1986, O l s z e w s k i H Sejm Rreczypospolitej epoki oligarchii, 1652—1763 Poznan, 1966, T a z b i r J Myśl polska w nowozytnej kulturze europejskiej Warszawa, 1986

*Г М Сагановіч*

**«ВО́ЛЬНАЯ БЕЛАРУ́СЬ»**, грамадска-палітычная, эканамічная і літаратурная газета нацыянальна-дэмакратычнага кірунку. Выдавалася з 28.5(10 6).1917 да ліст. 1918 у Мінску на бел. мове Рэдактар Я. Лесік. Выдавец *Беларускі Нацыянальны Камітэт*, з ліп. 1917 — Таварыства бел. культуры У 1917 выходзіла 2 разы на тыдзень, у 1918 штотыдневік. Паліт. кірунак неадназначны. У 1917 развівала традыцыі Беларускай сацыялістычнай грамады (БСГ) і газ. «Наша ніва». Выяўленая ў праграмных матэрыялах ідэя «вольнай Беларусі» мела рамантычны характар· акцэнтавалася ўвага на культурна-асветных і дэмакратычных традыцыях бел. народа, на яго прыярытэце ў станаўленні свецкай культуры, кнігадрукавання, на абарончай пазіцыі Беларусі ў дачыненні да імперыяліст. палітыкі царскай Расіі і Польшчы Заклікала да адраджэння краю, добрасуседскіх адносін з Расіяй, Польшчай, Украінай і Літвой пры ўмове прызнання імі нац. і культурнай самастойнасці Беларусі. Віталa Лют. рэвалюцыю 1917, выступала за культурна-нац. і дзярж. аўтаномію Беларусі ў складзе будучай дэмакр. федэратыўнай Расіі Апублікавала «Праект платформы беларусаў-аўтаномістаў», у якім абвяшчалася неабходнасць стварэння аўтаноміі Беларусі на тэр. кампактнага рассялення беларусаў, адраджэння нац дзяржаўнасці з уласнымі заканадаўчымі, выканаўчымі і судовымі органамі ўлады, гарадскім і сельскім самакіраваннем, бел. вайсковымі фарміраваннямі, аўтакефальнай Бел царквой. Лозунг «Жыве Беларусь!» стаў дэвізам шматлікіх матэрыялаў газеты Важнае месца адводзілася наданню бел. мове статуса мовы дзяржаўнай, развіццю школы ўсіх ступеняў з выкладаннем па-беларуску. Пасля Кастр. рэвалюцыі рэдактар газеты ў арт. «Паўстанне і нашыя заданні» пісаў: «Хто дбае аб культуры, хто стаіць за грамадскі лад, за дэмакратызм і еднасць дзяржавы Расійскай, той мусіць адказацца ад надзеі завядзення парадку з цэнтру і рашуча стаць на грунт федэралізму» (8.11.1917). Неадназначна ацэньваў Лесік ролю бальшавікоў, якія, на яго думку, садзейнічалі дэмакратызацыі краіны, але іх палітыка цэнтралізму нежыццевая. Таму аднаўленне грамадскага і дзярж. ладу

неабходна пачаць на Беларусі, Украіне, у вялікарускіх губернях, у Сібіры і іншых рэгіенах, якія пасля гэтага «патрапяць устанавіць і агульнадзяржаўны парадак праз сваіх прадстаўнікоў у Маскве і Петраградзе» (тамсама) На старонках газеты абмяркоўваліся тэарэтычныя і практычныя праблемы федэрацыі і канфедэрацыі дзяржаў. Лесік і інш. аўтары «В. Б.» крытыкавалі класавую палітыку бальшавікоў і сав. ўрада, якая, на іх думку, прывяла да анархіі, разбурэння эканомікі і грамадзянскіх сувязей, да «вялікай трагедыі» Расійскай дзяржавы. У снеж. 1917 газета паведамляла пра работу *Усебеларускага з'езда* Большасць дэлегатаў з'езда, якіх падтрымлівала газета, выступала не за аддзяленне ад Расіі, а за Бел. аўтаномную рэспубліку ў яе складзе, за нац. самавызначэнне і суверэнітэт народа (8 і 31.12.1917; 7.1. 1918). Пасля разгону з'езда газета ўскладала надзеі на Усерасійскі ўстаноўчы сход, агітавала за дэмакр. блок бел. партый і арг-цый.

З абвяшчэннем Бел. Нар Рэспублікі (БНР) курс газеты змяніўся· яна пачала выступаць за незалежную дэмакр. Беларусь, заклікала да стварэння бел. нац. войска, крытыкавала палітыку ваен. камунізму і «цэнтралізму» бальшавікоў. Пад рубрыкай «Вольная трыбуна» выступалі аўтары з дыскусійнымі матэрыяламі. Аўтар арт. «Становішча Беларусі» (пад крыптанімам Я. Р-ч, 14.1 1918) бачыў небяспеку з боку манархічнай Германіі, якая, на яго думку, не будзе разбіта ў вайне, пастараецца раздзяліць былую Расійскую імперыю і не дапусціць утварэння на яе тэр. нацыянальных рэспублік. Ён выступаў за адмову ад рэв. агітацыі, за кансалідацыю ўсіх партый і груповак для адбудовы краю. Актывіст БСГ Н Быстры (Я. Дыла) у арт. «Што нас чакае?» (24.2.1918) даказваў, што сацыяліст. ідэалы застаюцца канструктыўным фактарам нац. адраджэння і несумяшчальныя з анархіяй. А. Прушынскі (А. Гарун) аспрэчваў пазіцыю левых сацыял-дэмакратаў і тых бальшавікоў, якія даказвалі, быццам сацыяліст. рух і нац. самавызначэнне народаў несумяшчальныя паміж сабой. На яго думку, сацыяліст. лад — антытэза капіталізму; аднак беспадстаўнымі з'яўляюцца утапічныя мары пра стварэнне «камуністычнага раю» на зямлі ў безнацыянальным грамадстве (17 3 1918) Газета друкавала пратэсты БСГ супраць «апекі» Германіі над Беларуссю, выступала за непадзельнасць бел. краю. Выкрывала пазіцыю кіраўніка сав. дэлегацыі Л. Троцкага, які не дапусціў бел. дэлегатаў да ўдзелу ў мірных перагаворах з Германіяй і яе саюзнікамі ў Брэсце, даказвала памылковасць пазіцыі Троцкага на перагаворах, яго лозунга «ні міру, ні вайны» (17, 24.2.1918). Пазней Лесік крытыкаваў вынікі Брэсцкага міру, ганебнага, на яго думку, для Расіі і згубнага для акуправанай немцамі і падзеленай Беларусі (10 3. 1918). «В. Б.» публікавала асн. дакументы Рады БНР, паводле якіх Беларусь абвяшчалася незалежнай дэмакр. дзяржавай (31.3.1918), падтрымала праграму дэмакратызацыі краіны і яе нац. адраджэння, выступіла за перагляд умоў Брэсцкага міру, што тычылася Беларусі.

У 1917 значнае месца ў газеце займалі паведамленні пра ўнутр. становішча і міжнар. падзеі, звесткі з франтоў, афіц. матэрыялы Часовага ўрада і органаў мясц. самакіравання. З сак. 1918 гэтыя аддзелы перайшлі да штодзеннай газ. *«Беларускі шлях»*, а «В. Б.» засяродзілася на сацыяльна-эканам., паліт., культурна-асветных праблемах Беларусі, яе гісторыі, літаратуры і мастацкай культуры. Шмат увагі аддавалася змаганню за беларусізацыю школы, падрыхтоўцы бел. падручнікаў, выкрыццю антыбел. пазіцыі мясц. чыноўнікаў, бурж. партый і груповак, барацьбе са спекуляцыяй і бандытызмам, аб'яднанню ў адзіны нац. фронт патрыятычных сіл бел. грамадства. Прапагандаваўся своеасаблівы «беларускі катэхізіс» («Дзесяць прыказанняў для памяці» З. Бядулі, «Што трэба ведаць кожнаму беларусу?» В. Ластоўскага). Газета апублікавала цыкл нарысаў П. Нечыпарэнкі па гісторыі стараж Беларусі 8—13 ст у перакладзе з укр. мовы, даследаванне Лесіка «Гісторыя Вялікага княства Літоўска-Беларускага (паводлуг летапісу)», «Памяткі старасвецкай беларускай мовы і пісьменства», «Нашы месты» Друкаваліся «Праграма па гісторыі Беларусі» і інш. матэрыялы, у якіх падкрэсліваліся самабытны гіст. шлях бел. народа і яго высокая культура ў эпоху сярэднявечча, даследаванні Р. Зямкевіча пра спадчыну Ф. Скарыны («Друк Скарыны і друк сучасны», «Значэнне Францішака Скарыны ў беларускай культуры»), навук.-папулярныя даследаванні Лесіка па бел. мове («Граматыка і родная мова», «Наш правапіс», «Родная мова і яе значэнне»), нац. фальклоры (публікацыі песень, легенд, паданняў), інфармацыя пра маст выстаўкі ў Мінску і Вільні. Шэраг нарысаў прысвечаны этнагр. апісанню сялянскага побыту, развіццю харчовай прамысловасці на Беларусі (арт. Р Зямкевіча, А. Уласава)

Значнае месца ў газеце займаў літаратурна-маст. аддзел. На яе старонках упершыню надрукаваны камедыі В Дуніна-Марцінкевіча «Залеты», «Пінская шляхта» (у перакладзе на сучасную бел. мову з «пінчуцкай гаворкі» Лесіка), верш «Пагоня», цыкл «На ціхім Дунаі», арт. «Забыты шлях», гісторыка-этнагр. нарыс «Хто мы такія?» М Багдановіча З архіва Зямкевіча газ. надрукавала верш Я Лучыны «Заходзіць сонца за горы», ананімныя вершы і апавяданні. У «В. Б.» ўпершыню апублікаваны першая рэдакцыя паэмы «Сымон-музыка» і раздзелы з паэмы «Новая зямля», драма «Антось Лата», вершы, апавяданні з цыкла «Казкі жыцця» Я. Коласа. Актыўнымі супрацоўнікамі «В. Б.» былі З Бядуля (друкаваў перадавіцы, арт «М. А. Багдановіч», «Галгофа», «Народ і інтэлігенцыя», нарысы «Прыфрантавы рубеж Беларусі», «Хрыстос уваскрос!», вершы, апавяданні), А Гарун, М Гарэцкі Друкаваліся творы К Каганца, А Паўловіча, Ц Гартнага, У. Галубка, Ф Аляхновіча, Ф Шантыра, К. Буйло, З. Верас, М. Грамыкі,

М Краўцова, пераклады з украінскай (вершы Т. Шаўчэнкі), рус. (апавяд. М. Горкага «Старая Ізергіль»), польскай (паэма «Чысты чацвер» У. Сыракомлі) моў. Газета мела сталую рубрыку «Беларускі тэатр», асвятляла дзейнасць 1-га Бел. т-ва драмы і камедыі, віленскага бел. дзіцячага тэатра С. Корф, дзейнасць клубаў бел. творчай інтэлігенцыі «Беларуская хатка», Народнага дома імя М. Багдановіча, Беларускага т-ва «Цетка» імя А Пашкевіч-Цеткі, інфармавала пра гастролі тэатр калектываў, друкавала тэатр рэцэнзіі і рэкламу. *У М Конан*

**«ВО́ЛЬНАЯ ДУ́МКА»**, грамадска-навуковы і літаратурна-мастацкі часопіс, орган Беларускага паступовага (перадавога) студэнцтва ў Зах. Беларусі. Выдаваўся ў 1929 у Вільні на бел мове Рэдактар-выдавец Г Вялецкі Заклікаў моладзь да ўсведамлення сваей ролі ў грамадстве, салідарнасці з перадавой моладдзю Польшчы, ажыццяўлення права на свабоднае выяўленне свайго лесу. Інфармаваў пра рэв. барацьбу моладзі Зах. Беларусі і арышты яе актыўных удзельнікаў, пра сход Т-ва бел. школы ў Слоніме, адкрыцце бел выдавецкага т-ва «Руиь» у Беластоку і інш. Аддаваў увагу працэсу навучання, друкаваў артыкулы з парадамі, як лепш арганізаваць вучобу. На старонках часопіса змешчаны рэцэнзіі на «Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва» М. М Шчакаціхіна, зб. паэзіі «Беларусь» Л. Родзевіча, паэму «Уяўленне» У. Жылкі, на асобныя нумары часопісаў «Студэнцкая думка», «Шлях моладзі», «Вучнеўскі звон» і інш., рэклама новых кніг Выйшлі 2 нумары (на вокладцы № 2 памылкова пазначаны год выдання 1930). *А І Чарняева*

**«ВО́ЛЬНЫ СЦЯГ»**, літаратурна-мастацкі і навуковы ілюстраваны часопіс. Выдаваўся ў вер. 1920 — студз. 1922 у Мінску на бел. мове. Працягваў традыцыі час. *«Рунь»* Адлюстраваў пераходны стан бел. грамадскай думкі і маст. л-ры пач. 1920-х гадоў На яго старонках упершыню апублікаваны шэраг твораў, якія сталі здабыткам бел. культуры, у т. л. раздзелы з паэм Я. Коласа «Новая зямля», «Сымон-музыка», з аповесці «У палескай глушы», драм. творы Л. Родзевіча «Пакрыўджаныя», «Збянтэжаны Саўка», М. Гарэцкага «Вучыцель Мутэрка», пераклады Я. Купалы «Слова аб палку Ігаравым» пад назвай «Песня аб паходзе Ігара» і сцэнічнай аповесці Е. Жулаўскага «Эрос і Псіха». Надрукаваны «Кароткі нарыс нацыянальна-культурнага адраджэння Беларусі» У. Ігнатоўскага, з гіст матэрыялаў — арт пра віцебскія старажытнасці (падпісаны крыпт. N), эцюд А. Дашкевіча пра Заслаўе, публіцыст артыкулы З. Жылуновіча і Я Светляка, прысвечаныя актуальным пытанням станаўлення Беларусі, бел. мовы; з надзенных паліт. матэрыялаў — тэзісы «Беларускае пытанне і Кампартыя». З вершамі ў часопісе выступалі Я. Купала, З. Бядуля (псеўд. Іскра, Ясакар), М. Чарот, М. Грамыка, Я Журба, П. Каравайчык (псеўд. Paulus), М. Ганчарык (псеўд. Я. Сявец), Н. Панамарова, В. Краўцавічанка і інш., з драм. абразкамі і апавяданнямі — З. Бядуля, Ц. Гартны, М. Гарэцкі, М. Кудзелька, Родзевіч, М. Чарот. З літ. спадчыны змешчаны творы А. Гаруна і К. Каганца. Надрукаваны шэраг крытычных, літаратура- і мастацтвазнаўчых артыкулаў Я. Лесіка, М. Піятуховіча, Ігнатоўскага, Г. Гарэцкага, Каравайчыка (псеўд. П. Любецкі), Я. Карскага, З Бядулі, А Раманоўскага, Светляка, нарыс А. Іпеля «Беларускае мастацтва», працягвалася пачатая яшчэ ў «Руні» публікацыя працы Ф. Аляховіча «Тэатр на вёсцы», рэцэнзіі на кнігі па беларусазнаўству М. Байкова і Г. Гарэцкага. Змешчаны фотарэпрадукцыі краязн. і культ.-гіст. характару. У рэдагаванні «В. с.» ўдзельнічаў Я. Купала. Мастацкае афармленне першых нумароў Я Драздовіча. Выйшлі 9 нумароў, апошні ў каляровай вокладцы, аўтарства якой належала невядомаму мастаку. *А С Ліс*

**«ВО́ЛЬНЫ СЦЯГ»**, газета радыкальнага кірунку ў Зах. Беларусі, орган *Беларускай рэвалюцыйнай арганізацыі* Выдавалася 5.6—25.10.1923 у Вільні на бел. мове. Рэдактар-выдавец І. К. Логіновіч (П. Корчык). З-за праследаванняў уладамі Польшчы выходзіла пад рознымі назвамі: «Наш сцяг» (5 6 — 12 8), «Падняты сцяг» (16.8), «Сцяг» (19.8), «Сцяг народа» (23 8), «Вольны сцяг» (26 8 — 14.10), «Сцяг волі» (17.10), «Воля народа» (21 — 25.10). З рэв.-дэмакр. пазіцый асвятляла палітыку польскай адміністрацыі ў Зах. Беларусі, праявы сац. і нац. ўціску, працу *Беларускага пасольскага клуба*, прапагандавала ідэі рабоча-сялянскай еднасці, салідарнасці з працоўнымі ўсяго свету. Вял. ўвагу аддавала нац. і сялянскаму пытанням. Вяла дыскусію адносна вырашэння нац. пытання ў СССР, падтрымлівала арыентацыю ўрада Сав. Беларусі на «каранізацыю» адміністрацыйных органаў, крытыкавала замаруджанасць далучэння да БССР бел. зямель на У, ухваліла і надрука-

вала зямельны кодэкс БССР. Падтрымлівала новую эканам. палітыку ў СССР, у факце ўтварэння Сав. Саюза бачыла прызнанне нац. прынцыпу пабудовы дзяржавы, выказвала адабрэнне ў сувязі з амністыяй эсэрам. У тэарэтычным і практычным плане абмяркоўвала пытанні бел. вызв руху (арт. «Дэмакратыя, пралетарыят і нацыянальнае пытанне», «Нацыянальнае пытанне і пралетарыят» А. Луцкевіча пад псеўд. А. Фалькевіч і Кугельман, «Арыентацыя на сябе» Лаўрыновіча, «Патрэбнасць класавай свядомасці» Л. Родзевіча пад псеўд. Р. Юргілевіч і інш.). Паведамляла пра нац.-дзярж. і культурнае будаўніцтва ў БССР, культурна-грамадскі рух беларусаў у Латвіі, Літве, Чэха-Славакіі. Надрукавала драм. абразкі М. Гарэцкага «Чырвоныя ружы», вершы М. Парашкевіч, «Чырвоныя вясняніі» М. Чарота з даведкай пра аўтара, артыкулы А Міцько «Агульналюдскія матывы ў творчасці Янкі Купалы», А. Дыліса «Якуб Колас як нацыянальны паэт», кароткія рэцэнзіі на аповесць Я. Коласа «У палескай глушы» і «Беларускі лірнік» У Тэраўскага. Асобныя артыкулы прысвяціла рукапіснай спадчыне М. Багдановіча, архіву і б-цы Е. Раманава. Мела пастаянную рубрыку «Бібліяграфія». На старонках газеты таксама выступалі публіцысты Лагіновіч (пад крыптанімам «Я Л.»), С. Рак-Міхайлоўскі (пад псеўд. Баўтручонак), У. Самойла (пад псеўд. Суліма). *А С Ліс*

**ВО́ЛЬНЫЯ ЛЮ́ДЗІ**, катэгорыя сялян на Беларусі ў перыяд позняга феадалізму і капіталізму. Былі асабіста свабоднымі, мелі права пераходу з месца на месца. Катэгорыя В л фарміравалася ў перыяд позняга феадалізму пераважна з карэннага насельніцтва — дзяржаўных, прыватнаўласніцкіх, царкоўных сялян, *выбранцаў*, зямян, дробнай шляхты. Указам 1788 царскі ўрад перавёў у разрад В. л. *баяр панцырных* Віцебскай губ. Невялікая колькасць В. л. была замежнага паходжання — частка рускіх старавераў, перасяленцы з Аўстрыі, Прусіі і інш. краін. Прававым і маемасным становішчам набліжаліся да дзярж. сялян. За карыстанне зямлей адпрацоўвалі або плацілі падушны аброк. Да сярэдзіны 19 ст. пераважная большасць іх была запрыгонена памешчыкамі. У 1840 В. л., што жылі на казенных землях, далучаны да абшчын дзярж. сялян, прыпісаныя да гарадоў увайшлі ў склад гар. абшчын. Колькасць В. л. на Беларусі ў 1858 складала 14,6 тыс. душ абодвух полаў; у Мінскай, Гродзенскай і беларускіх паветах Віленскай губ. 63,5 % іх жыло на панскай зямлі, 16,4 — на казеннай, 20,1 % — на ўласнай. Напярэдадні сялянскай рэформы 1861 колькасць В. л. значна павялічылася за кошт пераведзеных у гэту катэгорыю абеззямеленых памешчыцкіх сялян і склала на Беларусі і ў Літве каля 100 тыс. рэвізскіх душ; асноўная маса іх прыпадала на зах. Літву. Пад уплывам нарастання сялянскага руху 21.9.1861 выдадзены закон, у адпаведнасці з якім спыняўся разгляд спраў аб пераводзе прыгонных у разрад В. л., забаронена зганяць іх з зямлі. Паводле ўказа ад 25.7.1864 В л. 1-га разраду (пазбаўленыя зямлі памешчыкамі пасля выдання рэскрыпта Аляксандра II віленскаму генерал-губернатару У. І. Назімаву ад 20.11.1857) надзяляліся зямлей з правам выкупу нароўні з памешчыцкімі сялянамі, В. л. 2-га разраду (пазбаўленыя зямлі да гэтага тэрміну) на працягу 12 гадоў заставаліся арандатарамі з паніжэннем арэнднай платы на 10 %. На пач. 1880-х гадоў на Беларусі і ў Літве было каля 87 тыс. рэвізскіх душ В. л. 2-га разраду. У выніку барацьбы за зямлю паводле закону ад 3 6.1882 яны атрымалі права яе выкупу ў Віленскай, Гродзенскай і Ковенскай губ. Аднак выкупная цана 1 дзес. зямлі для В. л. 2-га разраду ў Віленскай і Гродзенскай губ. была адпаведна ў 2,5 і 2,2 раза большая, чым для былых панскіх сялян, таму пераважная частка яе заставалася нявыкупленай. У Мінскай губ. ў сувязі са злоўжываннямі памешчыкаў пазямельнае ўладкаванне В. л. было затрымана да 1903.

*Літ* Абрамов Я Некоторые особенности наших поземельных отношений // Отеч зап 1883 № 11, Улащик Н Н Предпосылки крестьянской реформы 1861 г в Литве и Западной Белоруссии М , 1965 С 68—88 *В П Панюціч*

**ВО́ЛЬНЫЯ ХЛЕБАРО́БЫ**, былыя прыватнаўласніцкія сяляне, вызваленыя ад прыгоннай залежнасці паводле ўказа цара Аляксандра I ад 20.2.1803. Памешчыкам дазвалялася адпускаць прыгонных паасобку або цэлымі вёскамі з абавязковым надзяленнем іх зямлей. За гэта сяляне павінны былі выплаціць вялізны выкуп ці выконваць павіннасці паводле ўзаемнага дагавору з памешчыкам. На Беларусі вядомы толькі адзіны выпадак прымянення гэтага ўказа: у 1819 дзяржава выкупіла ў памешчыка 57 рэвізскіх душ з в. *Жарцы* Полацкага пав., «зважаючы на выдатныя паслугі, зробленыя імі ў вайне 1812 года». На месцах губернская адміністрацыя часта адносіла да В. х. усіх сялян, якія тымі ці іншымі шляхамі сталі ўласнікамі зямлі. Таму паводле 8-й рэвізіі (1834) іх налічвалася ў Віцебскай губ. 305, у Магілёўскай — 364 душы мужчынскага полу У 1848 В. х. ўключаны ў склад *дзяржаўных сялян на ўласных землях.*

*Літ* Бирюкович В Устроиство быта свободных хлебопашцев // Архив истории труда в России Пг , 1921 Кн 2, Сергеева Н И Проведение в жизнь указа о свободных хлебопащцах в начале XIX века // История СССР 1968 № 4 *У А Сосна*

**ВО́ЛЬТЭР** Эдуард Аляксандравіч [6(18).3.1856, Рыга — 14 12.1941], гісторык, этнограф, філолаг, бібліеграф, даследчык балтыйскіх і славянскіх народаў Скончыў Рыжскую гімназію (1875), вывучаў параўнальнае мовазнаўства, балтыйскія і славянскія мовы ў Лейпцыгскім ун-це (1875—77), рус. літаратуру ў Дэрпцкім ун-це (1877—80). З 1890 супрацоўнік Бібліятэкі АН у Пецярбургу, з 1894 загадчык яе славянскага аддзялення. Набыў для бібліятэкі некалькі каштоўных прыватных калекцый, у т. л збор І. І. Сразнеўскага, у якім знаходзіўся «Дзесятаглаў». Прыват-дацэнт Петраградскага ун-та (1895—1918), цэнзар літоўскіх кніг (1904—17). У 1919—22 кіраваў Нац. бібліятэкай Літвы ў Каўнасе, у 1922—33 праф. Каўнаскага ун-та і дырэктар Каўнаскага гар. музея У «Календары Паўночна-Заходняга краю на 1890 год», выдадзеным у Маскве пад рэдакцыяй М. В. Доўнар-Запольскага, змясціў артыкул «Статыстыка племяннога складу народанасельніцтва Паўночна-Заходняга краю» У канцы 1890-х гадоў разам з В. *Шукевічам* раскопваў стараж. могільнікі на Бел. Панямонні, збіраў археал. і этнагр матэрыялы ў паўн.-зах. Беларусі. Шэраг яго прац прысвечаны балтыйскай меншасці на бел. землях («Матэрыялы для этнаграфіі латышскага племя Віцебскай губерні», 1890; «Сляды старажытных прусаў і іх мовы ў Гродзенскай губерні», 1911). У арт. «Гара Мендоўга, ці Дзе шукаць Летовію XIII ст.?» (1909) спрабаваў паказаць, што рэзідэнцыяй вял. кн. Міндоўга быў не Навагрудак, а Варута. В.— адзін з першых біеграфаў Т. *Нарбута* («Рускі біяграфічны слоўнік», 1914) У 1915 паставіў задачу комплекснага вывучэння Ардынацкай нясвіжскай бібліятэкі як помніка культуры (даклад «Бібліятэка буйнога літоўскага магната ў 1772 г.» ў Рус. бібліяграфічным т-ве).

*Тв* О ятвягах // Ежегодник Русского антропологического о-ва при имп С -Петербургском ун-те 1908 Т 2, К вопросу о «Саянах» Из истории лит -рус костюма // Известия Отд-ния рус яз и словесности АН 1917 Т 22, кн 1.

*Літ* Bušmiene S Eduardas Volteris Vilnius, 1973, Славяноведение в дореволюционной России Биобиблиогр словарь. М , 1979, Биографический словарь профессоров и преподавателей Спб ун-та Т 1 Спб , 1896 *М В Нікалаеу*

**ВОЛЬФ** Рамана Давыдаўна (парт. псеўд Язерская, Алена; 12.12.1899, Варшава — 1937), дзеяч рэв. руху ў Зах. Беларусі. У грамадз. вайну сакратар Харкаўскага, Гомельскага падп. к-таў РКП(б), на падп. рабоце ў тыле войск Дзянікіна, нач. палітаддзела дывізіі. У 1920—24 у РВС Зах. фронту і ў калегіі ВЧК — ДПУ. З 1924 на падп. рабоце ў Зах. Беларусі сакратар Віленскага, Беластоцкага, Брэсцкага акр. к-таў КПЗБ, чл. ЦК КПЗБ, потым сакратар Дамброўскага акр. к-та Кампартыі Польшчы (КПП). У жн. 1926 арыштавана і па *працэсе 133-х* зняволена на 6 гадоў у турму. Дэлегат III (1926) канферэнцыі КПЗБ, VII (1935) кангрэса Камінтэрна. У 1932 абрана канд. у чл. ЦК КПП; з жн. 1933 чл. Бюро ЦК КПЗБ, яго прадстаўнік пры ЦК КП(б)Б. У 1934 чл. польскага сакратарыята пры ЦК Кампартыі Францыі. З ліст. 1934 да мая 1935 і ў 1937 кіраўнік Краявога сакратарыята ЦК КПП. З жн. 1937 у СССР, у гэтым жа годзе незаконна

рэпрэсіравана. Рэабілітавана пасмяротна. *М С Арэхва*

**ВОЛЬФ** (Wolff) Юзаф (?, Пецярбург — 1900), гісторык. Чл.-кар. Польскай акадэміі навук у Кракаве. Нарадзіўся ў сям'і кнігавыдаўца. Скончыў Лейпцыгскі ун-т. Працаваў каля 10 гадоў у Пецярбургу ў кнігавыдавецкім і кнігагандлевым прадпрыемстве свайго дзядзькі і цесця М. В. Вольфа. Вывучаў шматлікія архіўныя звесткі, прывілеі, хронікі, летапісы. Аўтар фундаментальных прац па генеалогіі «Сенатары і саноўнікі Вялікага княства Літоўскага 1386—1795» (1885), «Род Гедзіміна» (1886), «Князі літоўска-рускія з канца XIV ст.» (1895, пераклад на бел. мову распачаў друкаваць час. «Спадчына», 1992, № 4).

*Літ* Либрович С Ф Книжник-генеалог // Либрович С Ф На книжном посту Пг, М., [1916] *А М Нарбут*

**«ВО́ЛЯ»**, грамадска-палітычны часопіс. Выдаваўся штотыднева ў 1919—21 у Вене на ўкр. мове. Рэдактар А. Гарленка (В. Піснячэўскі). Асвятляў паліт. і культурнае жыццё ў Зах. Украіне, укр. эміграцыйных цэнтраў у Еўропе. Паведамляў пра абвяшчэнне, першыя паліт. і дыпламат. крокі Бел. Нар. Рэспублікі, лес бел. вайсковых адзінак у інтэрніраванай у Францыю расійскай арміі, пра «польскія зверствы», паўстанні бел. сялян у Зах. Беларусі. Многія паведамленні з Беларусі пазначаліся як «ад уласнага карэспандэнта» У апублікаваным А. Ярэмчанкам «Кароткім нарысе гісторыі беларускай літаратуры» (1921, т. 3, ч. 6—10) падкрэсліваў карыснасць узнікшага культурна-паліт. збліжэння двух братніх народаў — украінцаў і беларусаў — «адзіных прыхільных да нас суседзяў, шчырых і сапраўдных саюзнікаў у барацьбе з масквінамі і палякамі за вызваленне з-пад іхняга ярма». На старонках часопіса ў пер. на ўкр мову Ярэмчанкі змешчаны творы М. Багдановіча, З. Бядулі, А. Гаруна, Я. Купалы. *С С Панізнік*

**«ВО́ЛЯ НАРО́ДУ»**, газета рэвалюцыйна-дэмакратычнага кірунку. Выдавалася 21—25.10 1923 у Вільні на бел. мове Рэдактар-выдавец У. Знамяроўскі У газеце супрацоўнічалі Я. Пачопка, А. Радкевіч і інш. Мела рубрыкі: «Палітычныя падзеі», «Весткі з вескі», «З польскага сойму», «З газет», «Хроніка». Выступала супраць антынар. палітыкі польскага ўрада, нац. прыгнету, узнімала пытанні сац становішча сялянства ў Зах. Беларусі Заклікала да гуртавання бел. сіл і арыентацыі іх на бел. паслоў у сейме, аналізавала паліт. становішча ў краіне (арт. «Каму «бэндзе гожай», а каму «бэндзе лепей» пад псеўд Віс), разглядала высунутую яшчэ ў 1910-я г. еўрап. сацыял.-дэмакратамі ідэю Злучаных Штатаў Еўропы (арт. «Злучаныя штаты Еўропы» Радкевіча), выказвала занепакоенасць узмацненнем таталітарных тэндэнцый у Германіі (публікацыя Кугельмана). Шмат увагі аддавала развіццю грамадскага самаўсведамлення працоўных, барацьбе за бел. асвету, заклікала адкрываць прыватныя бел школы, ствараць сельскія кааператывы (публікацыі пад. псеўд. П. Бахрым), гурткі артыстаў-аматараў, пасылаць «хадакоў» у сейм і ўрад. Змешчаны інтэрпеляцыя бел. дэпутатаў у сейм у сувязі са злоўжываннямі польскіх вайскоўцаў на зах.-бел. землях, матэрыялы пра рэпрэсіі польскіх улад у Валожынскім і Вілейскім пав., інфармацыя аб падзеях у свеце (выступленні беспрацоўных у Берліне, Кельне і інш. гарадах Германіі, дыверсіі ў рэдакцыях фаш. газет і работу парламента ў Італіі, парламенцкія выбары ў Аўстрыі, міжнар. сялянскую канферэнцыю ў Маскве і інш ) Рэкламавала новыя кнігі, перыяд. выданні, друкавала парады сельскім гаспадарам. Выйшлі 2 нумары. *А І Чарняева*

**«ВОПРО́СЫ АРХИВОВЕ́ДЕНИЯ»**, навукова-інфармацыйны бюлетэнь Галоўнага архіўнага ўпраўлення пры СМ СССР. Выдаваўся ў 1959—65 у Маскве. У лют. 1956—58 выходзіў «Информациоиный бюллетень Главного архивного управления при СМ СССР». Узнімаў пытанні тэорыі і практыкі архіўнай справы, адлюстроўваў праблемы справаводства, дапаможных гіст. дысцыплін, музеязнаўства; друкаваў падборкі архіўных дакументаў. У бюлетэні былі надрукаваны артыкулы і паведамленні кіраўнікоў архіўнай галіны і архіўных устаноў Беларусі А. І. Азарава і В. А Ільючовай (1958. № 7), І. С. Лукельева (1962. № 2), С І Сікорскага (1959 № 2) і інш. аб дзейнасці архіўных устаноў рэспублікі, паведамленні аб архіўных канферэнцыях і нарадах, якія праходзілі на Беларусі (1957. № 6; 1959. № 2), артыкулы бел. архівістаў А. В. Вараб'ева і Дз. З. Сняткова (1961. № 3), Я. Ф. Шорахава (1961. № 3; 1964. № 1) па пытаннях рэарганізацыі архіўных устаноў, забеспячэнні захаванасці архіўных дакументаў, З. А. Жураўлёвай (1963. № 2), В. В. Казлова (1964. № 4), Г. Ф. Казловай (1962. № 4), С. Дз. Панкратавай (1963. № 2) і інш. па праблемах збірання дакументаў асабістага паходжання, экспертызе каштоўнасці дакументаў нар судоў, каталагізацыі архіўных дакументаў, іх выкарыстанні; паведамленне Шорахава пра канферэнцыю бел. архівістаў 1924 (1965, № 3); змешчаны агляды дакументаў па гісторыі дарэв. парт. буд-ва, гісторыі барацьбы за сав. уладу ў 1918 на Беларусі, падрыхтаваныя супрацоўнікамі парт архіва Ін-та гісторыі партыі пры ЦК КПБ А. А. Кузняевым і С. З. Пачаніным (1965, № 2, 4). Выйшла 38 нумароў. У 1966 пераўтвораны ў час. *«Советские архивы»*.

*Літ* По страницам «Вопросов архивоведения» за 10 лет // Сов архивы 1966 № 1 *М Ф Шумейка*

**«ВОПРО́СЫ ИСТО́РИИ»**, штомесячны навуковы часопіс Расійскай АН (да 1991 орган Аддзялення гісторыі АН СССР і Дзярж. к-та СССР па нар. адукацыі). Заснаваны ў Маскве ў 1926 пад назвай «Историк-марксист», з 1941 — «Исторический журнал», з 1945 — «В. и.» Змяшчае праблемныя артыкулы па гісторыі рус. дзяржавы, СССР, усеаг. гісторыі, тэорыі гіст. працэсу, гістарыяграфіі і інш. Да пытанняў гісторыі ВКЛ звяртаўся У Ц Пашута (1958, № 8; 1977, № 4), Дз. Л. Пахілевіч (1973, № 12), пра ўдзел бел. народа ў антыфеад. вайне 1648—54 пісаў Я. Г Шулякоўскі (1954, № 5), пра ўтварэнне БССР — В. А. Круталевіч (1964, № 7), пра І. Федарава — М. М. Улашчык (1986, № 11), пра Ф. Скарыну — А. К Каўка (1988, № 10), эканам. перадумовы фарміравання бел. нацыі разглядаў Я. І. Карнейчык (1955, № 8), дзейнасць надзвычайных камісій Беларусі ў 1918 — І. І Майданаў (1976, № 12), партыз. рух на Беларусі ў Вял. Айч. вайну — В. К. Кісялеў (1974, № 12; 1978, № 5,

1984, № 3), І. І. Парфёнаў (1979, № 6) і інш. Неаднаразова друкаваў артыкулы пра навук. работу гісторыкаў АН БССР, гіст. факультэта БДУ. Змясціў рэцэнзіі на працы А. П. Грыцкевіча, М П. Касцюка, Круталевіча, І. І. Саладкова, М. А. Ткачова і інш.
*М М Гінкул*

**«ВОПРО́СЫ ИСТО́РИИ»,** навуковы зборнік Выдаваўся Мін-вам вышэйшай і сярэдняй адукацыі і Мінскім пед. ін-там у 1974—85 адзін раз на год. Выйшла 12 выпускаў. Змяшчаліся артыкулы супрацоўнікаў кафедраў гісторыі ун-таў і пед. ін-таў рэспублікі, аспірантаў. Шмат артыкулаў прысвечана гісторыі Беларусі, пераважна сав. часу, яе гістарыяграфіі. Найб. навук. значнасць маюць артыкулы па дакастр. гісторыі Беларусі. Выдаваліся тэматычныя выпускі: 6-ы і 10-ы прысвечаны праблемам новай і навейшай гісторыі, міжнар. рабочаму і вызв. руху, міжнар. адносінам у навейшы час, у 12-м надрукаваны артыкулы з нагоды 50-годдзя гістфака БДУ. Гал. рэдактары Н. В. Каменская (вып. 1—2) і В. М. Фамін (вып 3—12). *У М Міхнюк*

**«ВОПРО́СЫ ИСТО́РИИ КПСС»,** часопіс, орган Ін-та марксізму-ленінізму пры ЦК КПСС (з крас. 1991 Ін-т тэорыі і гісторыі сацыялізму ЦК КПСС). Выходзіў з мая 1957 да вер. 1991 у Маскве на рус. мове 6 разоў на год, з 1963 штомесячна. Асн. мэта часопіса — распрацоўка пытанняў гісторыі КПСС, адлюстраванне гісторыі камуніст і рабочых партый інш краін, міжнар. рабочага руху, публікацыя дакументаў і матэрыялаў па гісторыі КПСС, кампартый інш краін. Побач з прапагандысцкімі артыкуламі ў часопісе змяшчаліся публікацыі па праблемах метадалогіі гісторыі, гісторыка-парт. крыніцазнаўства, гістарыяграфіі, дакументы і матэрыялы з фондаў парт. архіваў і інш. Друкаваў таксама артыкулы па гісторыі стварэння і дзейнасці КПБ. Сярод бел. аўтараў Л. С. Абэцэдарскі, Я І. Бугаеў, У. П. Верхась, І. П. Ганенка, М. М. Жылінскі, В. К. Кісялеў, М. П. Касцюк, С. А. Пілатовіч, Р. П. Платонаў, С. З. Пачанін, У. К. Ракашэвіч, У. М. Сікорскі, Ф. А. Сурганаў, А. А. Тозік і інш. Пэўную цікавасць і навук. значэнне ў сувязі з выкарыстаннем раней невядомых крыніц мелі артыкулы пра камуніст падполле на Беларусі, дзейнасць партыз. контрразведкі ў Вял. Айч вайну і інш. Аднак большасць публікацый па пытаннях т. зв. гісторыка-парт. тэматыкі мела дагматычны характар. Друкаваліся таксама рэцэнзіі, анатацыі на кнігі па гісторыі КПБ, якія выходзілі на Беларусі.
*М Ф Шумейка*

**«ВОПРО́СЫ ИСТО́РИИ КПСС»,** навук. зборнік. Выдаваўся штогод у 1972—89 у Мінску на рус. мове Мін-вам вышэйшай і сярэдняй спец. адукацыі БССР і БДУ. Меў падзагаловак «Некаторыя пытанні арганізатарскай і ідэалагічнай дзейнасці КПСС. На матэрыялах Беларускай ССР». Выдадзена 20 выпускаў. Друкаваліся ў асн. артыкулы супрацоўнікаў кафедраў гісторыі КПСС вышэйшых навуч. устаноў Беларусі, пераважна аспірантаў і саіскальнікаў навук. ступеняў. Гал. тэмай зборнікаў было т. зв. парт. кіраўніцтва рознымі галінамі эканам., паліт., культурнага жыцця рэспублікі, сацыяліст. спаборніцтва працоўных, а таксама пытанні парт, камсамольскага, прафсаюзнага будаўніцтва, ідэйна-выхаваўчай і прапагандысцкай работы парт. арг-цый, дзейнасці парт друку і інш. Практычна ўсе артыкулы напісаны з акцэнтам на поспехі і дасягненні, з перабольшваннем ролі партыі ў развіцці грамадства. Асн. крыніцы артыкулаў — матэрыялы парт. архіваў, апублікаваныя дакументы парт. органаў розных узроўняў і парт. перыядычны друк. Гістарыяграфічнае значэнне зборнікаў невялікае. Гал. рэдактарамі былі У. М. Сікорскі (вып 1—13), Т. І. Прытыцкая (вып. 14—20). *У М Міхнюк*

**ВО́РАНАВА,** гарадскі пасёлак, цэнтр раена. За 123 км на ПнУ ад Гродна, за 1 км ад чыг. ст. Воранава на напрамку Ліда — Вільнюс, на аўтадарозе Ліда — Вільнюс 6,8 тыс. жыхароў (1993).

Вядома па пісьмовых крыніцах з 16 ст., у складзе ВКЛ. Стараж. назва Балотна (Блотна) ад р. Балатнянка (цяпер ручай), у польскіх і рус. крыніцах — Weronów, Воронов. На карце Т. Макоўскага (1613) мястэчка. Належала Гаштольдам. У 1690 у В. 61 двор, касцел, карчма. З пач. 18 ст. належала ваяводу мсціслаўскаму А Масевічу, які ў 1705 заснаваў новы касцел св Тадэвуша Пазней перайшло ва ўласнасць Сцыпенам, затым Зарэцкім. У 1735 кашталян смаленскі, староста лідскі Я. Сцыпен адкрыў у В. школу і калегіум піяраў, якія ў 1755 распараджэннем Адукацыйнай камісіі пераведзены ў Ліду. Пры Сцыпенах В. было цэнтрам староства. З 1795 у складзе Расійскай імперыі, мястэчка Лідскага пав. У 1865 было 468 жыхароў (18 праваслаўных, 117 католікаў, 333 іудзеі), 42 дамы, парафіяльны касцел, сінагога, малітоўны дом, 2 гарбарні, вадзяны млын, 12 крам, паштовая станцыя, штотыднёвы кірмаш Побач з мястэчкам размяшчаўся фальварак, у якім было 100 католікаў, 18 евангелістаў, 8 іудзеяў; існавалі бровар, драўляны касцел св. Збавіцеля, што быў цэнтрам мясцовай парафіі Радунскага дэканата, якая налічвала 1738 вернікаў. У 1897 у В. 1574 жыхары, з іх 1432 яўрэі. З 1921 у складзе Польшчы, цэнтр гміны Лідскага пав. Навагрудскага ваяв. З 1939 у БССР, з 15.1.1940 цэнтр раена, з 12.10.1940 гар. пасёлак. 23.6.1941 акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія 14.11.1941 і 11.5.1942 расстралялі тут больш за 2600 жыхароў В. і г. Вільні. Вызвалены 11.7.1944 войскамі 3-га Бел. фронту ў час *Вільнюскай аперацыі 1944* У 1970 было 3,6 тыс. жыхароў. У В. працуюць малочны, хлеба- і віны з-ды, раеннае аб'яднанне «Сельгастэхніка». Праф.-тэхн. вучылішча механізацыі сельскай гаспадаркі, сярэдняя, музычная, спартыўная школы, школа-інтэрнат, 2 дашкольныя ўстановы, Дом піянераў і школьнікаў, 2 бібліятэкі, бальніца, кінатэатр. Брацкая магіла сав. воінаў і партызан (сярод пахаваных Герой Сав. Саюза А. І. Канарчык), магіла сав. воіна, магілы ахвяр фашызму, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. *І І Коўкель*

**ВО́РАНАВА** Аляксандра Іванаўна [18.6(1.7).1908, Віцебск — 26.11.1978], беларускі гісторык. Д-р гіст. навук (1967). Праф. (1968). Скончыла БДУ (1930). У 1933—44 выкладала гісторыю СССР у ВНУ Мінска, Оршы, Уральска. З 1944 заг. кафедры гісторыі СССР мінскіх пед. ін-та і парт. школы; з 1962 на кафедры гісторыі СССР Мінскага пед. ін-та. У яе працах раскрыта дынаміка фарміравання і развіцця фабрычна-заводскага пралетарыяту, ахарактарызаваны сацыяльна-эканам прычыны і ўмовы, этапы і рост рабочага руху, асабліва ў перыяд рэвалюцыі 1905—07, паказана дзейнасць першых с.-д. груп на Беларусі ў канцы 19 — пач. 20 ст. Аднак у даследаваннях В. ідэалізаваліся рабочы рух і ступень бальшавіцкага кіраўніцтва ім, што было ўласціва гіст. навуцы таго часу.

*Тв* Революция 1905—1907 гг в Белоруссии Мн, 1954 (разам з Е П Лук'янавым), Положение рабочего класса Белоруссии в конце XIX — начале XX веков // Тр Ин-та истории АН БССР Сб ст Мн, 1958 Вып 3, Рабочы рух у Беларусі напярэдадні і ў перыяд рэвалюцыі 1905—1907 гг Мн, 1960, Численность, состав и положение фабрично-заводских рабочих Белоруссии накануне первой мировой империалистической войны // Большевистская печать и рабочий класс России в годы революционного подъема 1910—1914 М, 1965 *У М Міхнюк*

**ВО́РАНАЎ** Сцяпан Трафімавіч [30.12 1905(12.1.1906), в. Вірок Гарадоцкага пав. Віцебскай губ.— 22.10.1959], адзін з кіраўнікоў партыз руху на Беларусі ў Вял. Айч вайну. З 1931 на гасп. рабоце ў Віцебскай вобл. У партызанах з ліст. 1941, з чэрв. 1942 камандзір партыз. атрада, у вер 1942 — ліст 1943 партыз. брыгады імя М. І Кутузава Віцебскай вобл. Са снеж. 1943 на сав. і гасп рабоце.

**ВО́РАНАЎСКІ РАЁН.** Размешчаны на ПнЗ Гродзенскай вобл. Пл. 1,4 тыс. км², нас. 39 тыс. чалавек, з якіх 29,6 тыс. сельскага (1993). Цэнтр — г. п. *Воранава*. Тэр. раена знаходзіцца на Лідскай раўніне. Працякаюць рэкі Жыжма і Дзітва (правыя прытокі Немана). Пад лесам 23,8 % тэр. раёна Праходзяць чыгунка Ліда — Вільнюс і аўтадарогі Ліда — Вільнюс, Гродна — Радунь.

Утвораны 15.1.1940 у Баранавіцкай вобл. 12.10.1940 падзелены на 10 сельсаветаў: Беняконскі, Вяканскі, Веницкускі, Даўгялаўскі, Канвелішкаўскі, Кодзеўскі, Пераганцаўскі, Рамашканскі, Рамуцеўскі, Свільскі. У першыя дні Вял Айч вайны на тэр раена праходзілі жорсткія баі, абарону трымаў 20-ы полк 37-й стралк. дывізіі. У першыя 4 дні вайны тэр. раена была акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў раене знішчылі 1612 чал. Барацьбу з акупан-

тамі вялі партыз. брыгада імя С. М. Кірава, Воранаўскі падп. райком ЛКСМБ. Дзейнічалі фарміраванні Арміі Краевай (АК). Раен вызвалены ад ням.-фаш. захопнікаў 11—14.7.1944 сіламі 36-га гв. стралк. корпуса 11-й гв. арміі і 71-га стралк корпуса 31-й арміі 3-га Бел. фронту ў ходзе Вільнюскай аперацыі пры падтрымцы партызан

У пасляваен. гады гаспадарка раена аднаўлялася. 3.4.1959 далучаны Тракельскі сельсавет з Лідскага, Жырмунскі і Асаўскі (з 19.11.1963 Пагародзенскі) з Радунскага р-наў, 25.12.1962 — г. п. Радунь, Забалацкі, Нацкі, Пашкавіцкі (з 15.5.1978 Больцішскі), Слабодкаўскі (з 15.5.1978 Гіркаўскі), Смільгінскі, Чыжунскі (з 11.2.1979 Доцішскі), Якубоўскі (з 11.2.1972 Місявіцкі) з Радунскага р-на. На 1.1.1993 у раене 340 нас пунктаў, у т. л. 2 гар пас (Воранава, Радунь), 301 веска, 37 хутароў; 13 сельсаветаў Бастунскі, Беняконскі, Больцішскі, Гіркаўскі, Доцішскі, Жырмунскі, Забалацкі, Канвеліцкі, Місявіцкі, Нацкі, Пагародзенскі, Паляцкішскі, Пераганцаўскі. Працуюць цагельны, агароднінасушыльны з-ды, хлебакамбінат, вінзавод, маслазавод, камбінат бытаблслугоўвання, камбінат каап прамысловасці, райаграпрамтэхніка, сельгасхімія. На 1.1.1977 у раене 17 калгасаў, 6 саўгасаў, 2 эксперым. базы, на 1.1.1993 — 16 калгасаў, саўгас, 2 эксперым. базы, племзавод, якія спецыялізуюцца на вытворчасці мяса-малочнай прадукцыі ў спалучэнні з раслінаводствам. На тэр раена 18 пачатковых, 18 няпоўных сярэдніх школ, 13 сярэдніх, школа-інтэрнат, 28 дашкольных устаноў; 7 бальніц, 25 фельчарска-акушэрскіх пунктаў. Выдаецца раенная «Воранаўская газета». Найбольш значныя археал. помнікі — могільнік, гарадзішча, каменныя магілы каля в. Апонаўца, у в. Гарадзішча, Дварчаны, Пузелі і інш. У раене магіла ахвяр фашызму (в. Пасека Дварчаны), устаноўлены помнікі на месцы гібелі Героя Сав. Саюза А. І. Канарчыка (каля в. Барташуны) і дзяўчат-сувязістак (в. Гародна). Захаваліся помнікі архітэктуры капліца і дом-крэпасць 17 ст. (в. Гайцюнішкі), касцелы 18 — пач 20 ст. (в. Беняконі, Жырмуны, Забалаць, Канвелішкі, Тракелі), садова-паркавага мастацтва 18—19 ст. (в. Бальценікі, Гародна). Тут нарадзіліся архітэктар 19 ст. К. І. Падчашынскі (в. Жырмуны), гісторык Т. *Нарбут* (і пахаваны) і яго сын Л. Т. *Нарбут*, удзельнік паўстання 1863—64, бел. археолаг В. А. *Шукевіч* (і пахаваны), пахаваны вучоны С. Б. *Юндзіл*.

*Літ.* Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Гродзенская вобл. Мн., 1986.
*І. І. Коукель*

**ВО́РАНЬ**, група археал. помнікаў каля в. Ворань Лепельскага р-на, якая складаецца з 2 паселішчаў, гарадзішча і курганнага могільніка.

Паселішча-1 позняга *неаліту* і *бронзавага веку*. За 1—1,5 км на У ад вескі, на правым беразе р. Вароніца. Пл. 0,5 га. Выявіў у 1867 А. М. Семянтоўскі, абследавалі ў 1956 Л. В. Аляксееў, у 1972 А. Р. Мітрафанаў, у 1981 Ю. А. Заяц, даследаваў у 1979 Э. М. Зайкоўскі. Культурны пласт каля 0,6 м. Знойдзены крамяневыя прылады працы (скрабкі, скрэблы, адшчэпы з падрэтушоўкай па краях, праколка, нажы, пласціны, тронкавы наканечнік стралы), фрагменты порыстай керамікі эпохі неаліту (у асноўным неарнаментаванай, часам з упрыгожаннямі ў выглядзе ямак, наколаў, зашчыпаў, адбіткаў тканіны, грабеньчатага штампа), позняй бронзы (гладкасценная), банцараўскай культуры і сярэднявечча.

Паселішча-2 позняга неаліту (3-е тысячагоддзе да н. э.). За 1,7 км на У ад вескі і 500 м ад воз. Ворань. Пл. каля 0,5 га. Выявіў і даследаваў у 1979 Зайкоўскі. Культурны пласт 0,5—0,8 м. Выяўлены крамяневыя прылады працы (нож з трохграннай пласцінкі, бакавы скрабок на адшчэпе з невысокай спінкай, 3 нажападобныя пласцінкі і інш., мікрануклеус, адшчэпы і дробныя сколы), фрагменты ляпной порыстай керамікі, частка якіх упрыгожана насечкамі. У верхнім пласце знойдзены абломкі ганчарнай керамікі.

Гарадзішча *штрыхаванай керамікі культуры* (4—1 ст. да н. э.). За 3 км на З ад вескі, на беразе воз. Азяруты. Авальная пляцоўка памерам 50×31 м. Схілы стромкія, вышыня паўн.-зах. часткі 10—12 м, астатніх — 6—8 м. З паўн. і паўн.-зах. бакоў невялікая тэраса шырыней каля 8 м, якая ляжыць ніжэй за пляцоўку на 5—6 м. Магчыма, гэта рэшткі апоўзлага вала і рова. Выявіў у 1867 Семянтоўскі, абследавалі ў 1931 А. М. Ляўданскі, у 1972 Мітрафанаў, у 1981 Заяц. Культурны пласт больш за 0,5 м. Знойдзены дробныя абломкі ляпнога посуду.

Курганны могільнік 11—12 ст. За 500 м на У ад селішча. Больш за 100 курганоў, каля 30 з якіх вялікія (дыяметр 20—25 м, вышыня 4—5 м), астатнія меншыя (дыяметр 5—13 м, вышыня 0,5—2,5 м). Выявіў і даследаваў у 1867 М. Ф. Кусцінскі, абследавалі ў 1972 Мітрафанаў, у 1981 Заяц. Пахавальны абрад — трупапалажэнне. Знойдзены сярэбраныя скроневыя кольцы з напускнымі паставымі пацеркамі, жалезны нож, апрацаваныя крамяні-крэсівы.

*Літ.* Сементовский А. М. Белорусские древности. Вып. 1. Спб., 1890; Алексеев Л. В. Археологические памятники эпохи железа в среднем течении Западной Двины // Вопросы этнической истории народов Прибалтики. М., 1959; Зайковский Э. М. Исследования в Белорусском Поозерье // Археологические открытия 1979 года. М., 1980.
*Э. М. Зайкоўскі, А. Р. Мітрафанаў*

**ВО́РНЫЯ САЛДА́ТЫ** (рус. пахотные солдаты), асобая катэгорыя сельскагаспадарчага насельніцтва Расійскай імперыі ў 1830—50-я гады, якая знаходзілася ў распараджэнні ваеннага міністэрства. Складалася з сем'яў былых пасялян-«гаспадароў» пяхотных *ваенных пасяленняў*. У 1831—32 пасля

паўстання ваенных пасяленняў Наўгародскай губ там на іх базе было створана 14 акруг В. с. У 1836 на становішча В. с. пераведзены ваенныя пасяляне Віцебскай і Магілеўскай губ, якія склалі адпаведна 15-ю і 16-ю акругі. На насельніцтва акруг В. с. распаўсюджвалася рэкруцкая павіннасць (замест абавязковага паступлення дзяцей сялян на вайсковую службу). Утрыманне «пастаяльцаў» замянялася выплатай аброку на карысць дзяржавы У гэтых адносінах В. с. былі наблiжаны да *дзяржаўных сялян* У былых пасяленнях пяхотных і саперных войск на ўзор удзельных маенткаў былі створаны органы мясц. кіравання (дзесяцкія, соцкія, валасныя камітэты), якія павінны былі назіраць за парадкам і кантраляваць выкананне павіннасцей. Разам з тым захоўвалася і ваенная адміністрацыя, якой належала рэальная ўлада. На чале акруг знаходзіліся акруговыя камітэты. Іх дзейнасць каардынаваў начальнік усіх акруг В. с. Агульнае кіраўніцтва акругамі В с. ажыццяўляў дэпартамент ваенных пасяленняў ваеннага мін-ва. Пачынаючы з акруговых камітэтаў, увесь адм апарат складаўся з штаб-, обер-афіцэраў і генералаў. Як і ў ваенных пасяленнях, у акругах В. с. дзейнічаў ваенны суд. Захаванне ваеннай адміністрацыі было выклікана імкненнем улад прадухіліць паўтарэнне паўстанняў 1831. У 1851—52 урад спрасціў структуру кіравання В. с.: на тэр. Наўгародскай губ. замест 14 было ўтворана 7 акруг. Акругі ў Віцебскай і Магілеўскай губ. з-за іх аддаленасці адна ад адной не былі аб'яднаны, але атрымалі новыя парадкавыя нумары 8 і 9. Улады імкнуліся абкласці В. с. як мага большымі грашовымі і натуральнымі павіннасцямі. У наўгародскіх акругах яны істотна перавышалі аб'ём павіннасцей суседніх сялянскіх гаспадарак, аднак у Віцебскай і Магілеўскай губ. заставаліся на ўзроўні 1836 і былі значна меншымі, чым у Наўгародскай губ. У 1855 усе В. с. былі выведзены з-пад загадвання ваеннага міністэрства і падпарадкаваны міністэрству ўдзелаў. Неўзабаве было прызнана немэтазгодным мець на тэр. Віцебскай і Магілеўскай губ. удзельныя маенткі: большую частку іх даходаў паглыналі створаныя тут спец. ўпраўленні. У канцы 1858 акругі В. с. Віцебскай і Магілёўскай губ. перададзены ў распараджэнне міністэрства дзярж. маемасцей. У сярэдзіне 1860-х гадоў на становішча дзярж сялян пераведзены і былыя В. с. Наўгародскай губ

*Літ* Блашков Ю А Экономическое положение пахотных солдат Витебской и Могилевской губерний (30—50 гг XIX в) // Роль крестьянства в социально-экономическом развитии общества (сб ст межресп науч конф молодых ученых Белоруссии, Украины, Литвы, Киргизии) Мн, 1984

*Ю А Блашкоў*

**ВО́РСКЛА**, рака на Украіне, каля якой у 1399 адбылася бітва паміж войскамі ВКЛ і Залатой Арды. Гл. *Бітва на Ворскле 1399.*

Знаходкі са стаянкі-1 **Востраў** Пінскага р на крамяневыя наканечнікі стрэл (1, 2), разцы (3, 4), скобля (5, 13), нажы (6, 7), трапецыі (8, 11), праколкі (9, 12), устаўка (10), скрабок (14) сякера (15)

**ВО́РЦАЛЬ** (Worcell) Станіслаў Габрыель [26.3.1799, с. Сцяпань Ковельскага пав. Валынскай губ. (цяпер Сарненскі р-н Ровенскай вобл. Украіны) — 3.2.1857], польскі рэвалюцыянер-дэмакрат, сацыяліст-утапіст, удзельнік *паўстання 1830—31*. Скончыў Крамянецкі ліцэй (1819). Друкаваўся ў віленскім штотыднёвіку «Wiadomości brukowe» («Вулічныя весці») — друкаваным органе *шубраўцаў*. Пасля паражэння паўстання 1830—31 у эміграцыі ў Францыі, Бельгіі, Англіі. У 1835 удзельнічаў у стварэнні эмігранцкай арганізацыі рэв.-дэмакр кірунку *«Люд польскі»*, быў адным з аўтараў яе праграмы, напісанай у духу утапічнага сацыялізму. У 1840 разам з І. *Лялевелем* узначаліў лігу «Аб'яднанне», якая выступала за кансалідацыю ўсей польскай эміграцыі (уключаючы кансерватыўнае крыло) пад заклікам барацьбы за аднаўленне незалежнасці Рэчы Паспалітай. У 1846 большая частка лігі ўлілася ў польскае «Дэмакратычнае таварыства». В. увайшоў у склад яго кіруючага органа — Цэнтралізацыі, што паспрыяла радыкалізацыі т-ва Быў прыхільнікам салідарнасці польскага і расійскага рэв. руху. Сябраваў з А. І. *Герцэнам*, дапамог яму ў стварэнні вольнай рус. друкарні Ідэі В прыкметна паўплывалі на фарміраванне перадавой грамадскай думкі Беларусі, светапогляд рэвалюцыянераў дэмакратаў, у т. л **В** і К. Каліноўскіх.

*Тв* У кн Избранные произведения прогрессивных польских мыслителей М, 1957—58 Т 2—3

*Літ.* Герцен А И Былое и думы // Собр соч М, 1975. Т 7, Limanowski B Stanisław Worcell Życiorys [2 wyd] Warszawa, 1948, Lud Polski Wybór dokumentów Warszawa, 1957, Sikora A Gromady Ludu Polskiego Warszawa, 1974

*В Ф Шалькевіч*

**ВО́СТРАЎ**, група археал помнікаў каля в. Востраў Пінскага р-на, якая складаецца з 4 стаянак і селішча.

Стаянка-1 эпохі неаліту (5—4-е тысячагоддзі да н. э.). За 1 км на ПдЗ ад вескі. Даўжыня 80 м. Выявіў і даследаваў у 1964 У. Ф. Ісаенка. Знойдзены рэшткі 2 жытлаў, крамяневыя грубаапрацаваныя пікападобныя сякеры, пласцiністыя наканечнікі стрэл, скрабкі, мікралітычныя вырабы, абломкі гаршкоў *нёманскай культуры.*

Стаянка-2 эпохі неаліту (5—3-е тысячагоддзі да н. э.). За 1 км на ПнУ ад вескі. Даўжыня 150 м. Выявіў і даследаваў у 1964 Ісаенка. Знойдзены каля 300 апрацаваных крамянеў, абломкі ляпнога посуду.

Стаянка-3 канца эпохі неаліту (3-е тысячагоддзе да н. э.). За 500 м на ПдЗ ад вёскі. Даўжыня 60 м. Выявіў і даследаваў у 1965 Ісаенка Знойдзены крамяневыя грубаабабітыя сякеры, трохвугольныя наканечнікі стрэл, абломкі гліняных пасудзін.

Стаянка-4 ранняга *бронзавага веку* (3—2-е тысячагоддзі да н. э.) За 500 м на У ад вескі. Даўжыня 200 м Выявіў і даследаваў у 1973 Ісаенка Знойдзены крамяневыя прылады працы і абломкі ляпных гаршкоў з вельмі бугрыстай паверхняй.

Селішча *жалезнага веку* на месцы паселішча каменнага веку. За 1 км на З ад вескі. Памер 140×85 м. Даследаваў у 1987 А. А. Егарэйчанка На паверхні раскопу знойдзены жалезны з утулкай наканечнік дроціка з падоўжанарамбічным пяром і бочачкападобная сіняя пацерка з вочкам з празрыстага шкла (пад ім знаходзілася залатая фольга), акантаваным чорным, жоўтым і чырвоным кругамі Культурны пласт 0,1—0,35 м Знойдзены рэшткі трохзрубных пабудоў. Адна з іх няправільнай чатырохвугольнай формы, з агнішчам, абкладзеным кавалкамі жалезнага шлаку; у ей знойдзены фрагменты 2 ляпных гаршкоў, абломак гліністага праслiца, жалезны нож. У другой аналагічнай пабудове знойдзены 2 біканічныя гліняныя праслiцы, больш за 100 абломкаў грубаляпных і 5 глянцаваных пасудзін. У трэцяй пабудове агнішча знаходзілася ў паглыбленні, знойдзены абломак біканічнага гліністага праслiца, 14-гранная пацерка з глухога сіняга шкла. Побач з кожнай пабудовай знаходзіліся гаспадарчыя ямы, у якіх выяўлены рэшткі ляпных пасудзін. Найб. шматлікая грубаляпная (слаба- і моцнапрафіляваныя гаршкі, арнаментаваныя нарэзкамі па краі венчыка, зашчыпамі на плечуках) і глянцаваная (міскі з тоўстымі сценкамі і нераўнамерна абпаленыя) кераміка. Сярод знаходак крамяневы скрабок, круглае пляскатае праслiца, залачоныя і з глухога сіняга шкла пацеркі, бронзавыя пранізкі. Па-за межамі раскопу знойдзена шмат вырабаў з бронзы (трапецападобныя арнамента-

ваныя падвескі, пранізкі, ланцужкі), шкла (залачоныя, 14-гранныя сінія, белыя з сінімі вочкамі, сінія з бірузовымі кольцамі пацеркі, сіні бісер), жалеза (абломкі нажоў, рыбалоўны кручок, спражка), гліны, крэменю. Селішча заснавана ў каменным веку, існавала да 5 ст н э

*Літ* Исаенко В Ф Неолит Припятского Полесья Мн, 1976

*У Ф Ісаенка, А А Егарэйчанка*

**ВО́СТРАЎСКАЕ ПАГАДНЕ́ННЕ 1392.** Заключана 5 жніўня ў маентку Вострава каля г. Ліды паміж польскім каралем і вял. князем літоўскім *Ягайлам* і князем гарадзенскім і трокскім *Вітаўтам* аб перадачы ўлады ў ВКЛ Вітаўту. Бел. і літ. феадалы былі незадаволены *Крэўскай уніяй 1385* і палітыкай аб'яднання ВКЛ з Польшчай, таму яны аб'ядналіся вакол кн. Вітаўта, якому ў яго барацьбе супраць Ягайлы, абранага да таго ж у 1386 польскім каралем, дапамагалі таксама ваеннымі сіламі Тэўтонскі ордэн, дыпламатычна — яго зяць вял князь маскоўскі Васіль Дзмітрыевіч Атрымаўшы некалькі перамог над войскамі Ягайлы, Вітаўт адмовіўся ад саюзу з Тэўтонскім ордэнам і пайшоў на пагадненне з каралем. У Вострава прыбылі Ягайла са сваей жонкай Ядвігай — каралевай польскай, Вітаўт, князі з пануючай у ВКЛ дынастыі, бел і літ феадалы Паводле пагаднення Вітаўт быў прызнаны старэйшым сярод родных і стрыечных братоў Ягайлы ў Літве, на Беларусі і Украіне, пажыццевым намеснікам караля і фактычным кіраўніком ВКЛ, хоць пакуль што без тытула «вялікі князь», а з тытулам князя Літвы. Вітаўт абавязаўся захоўваць вернасць каралю, каралеве і польскай кароне Вітаўт, літ. і бел. феадалы, якія яго падтрымлівалі, змянілі знешнепаліт. арыентацыю на Польшчу, а не на Тэўтонскі ордэн. Гэта дало магчымасць узмацніць цэнтральную ўладу ў ВКЛ, пазбавіць сваякоў караля большай часткі іх улады на розных удзелах, а некаторых пазбавіць і ўдзелаў (Скіргайлу — Полацка, Свідрыгайлу — Віцебска, Дзмітрыя Карыбута Альгердавіча — Ноўгарада-Северскага, Фёдара Любартавіча — Валыні, Федара Карыятавіча — Падолії, Уладзіміра Альгердавіча — Кіеўскай зямлі). Неадназначнымі былі адносіны з Польшчай, якая спрабавала ўзмацніць сваю ўладу ў ВКЛ, што выклікала ў 1398 заключэнне тайнага пагаднення ВКЛ з Тэўтонскім ордэнам. Але пасля вял. паражэння ад татараў на р. Ворскле ў 1399 Вітаўт узнавіў ранейшыя адносіны з Польшчай, якія прывялі да заключэння *Віленска-Радамскай уніі 1401*, што з'явілася юрыдычнай асн. саюзных адносін абедзвюх дзяржаў.

*Літ* Kutrzeba St, Semkowicz W Akta unji Polski z Litwą, 1385—1791 Kraków, 1932 S 26—29, Prochaska A Król Władysław Jagiełło Krakow, 1908 T 1 S 92—105 Kolankowski L Dzieje Wielkiego Księstwa Litewskiego za Jagiełłonow Warszawa, 1930 T 1 S 50—57

*А П Грыцкевіч*

**ВО́СЬМАЯ КАНФЕРЭ́НЦЫЯ КП(б)Б,** гл. *Трэці з'езд КП(б)Б*

**ВО́СЬМАЯ СТРАЛКО́ВАЯ ДЫВІ́ЗІЯ.** Сфарміравана паводле загаду Маскоўскага акруговага ваен. камісарыята ад 24.9.1918 як 8-я пях. дывізія, з 11.10. 1918 8-я стралк. дывізія, з 8.12 1921 Мінская стралк. дывізія (складалася з трох стралк. брыгад, артыл. і інш. часцей) Уваходзіла ў склад Маскоўскай ваен акругі (вер. 1918 — студз 1919), *Заходняй арміі* (студз.— сак. 1919), *Беларуска-Літоўскай арміі* (сак.— чэрв. 1919), *Шаснаццатай арміі* (чэрв. 1919 — май 1921), Зах фронту (май 1921 — крас. 1924), Зах. ваен. акругі (крас 1924 — кастр. 1926), Беларускай ваен. акругі (БВА, кастр. 1926 — ліп. 1938), Бел. асобай ваен. акругі (ліп. 1938 — ліп. 1940), Заходняй асобай ваен. акругі (да 22 6.1941). У студз. 1919 дывізія перадыслацыравана ў раен Барысаў — Бабруйск — Жлобін — Магілеў — Орша. У сак. 1919 у адной з стралк. брыгад успыхнуў антысавецкі мяцеж (гл *Стракапытаўскі мяцеж 1919*), які быў задушаны іншымі часцямі дывізіі. У канцы сак.-крас. 1919 удзельнічала ў баях супраць пятлюраўцаў і белапалякаў, у вызваленні Мазыра. У маі 1919 22-я стралк. брыгада дывізіі перакінута пад Петраград, дзе ўдзельнічала ў баях з войскамі Юдзеніча. Астатнія часці вялі абарончыя баі з палякамі на ўчастку Сіняўка — Лунінец і Бабруйск — Свіслач, а таксама аперацыі супраць бандаў у тыле. У 1920 дывізія ў складзе ударнай групы войск 16-й арміі ўдзельнічала ў вызваленні Мінска, у баях пад Варшавай, затым зноў адышла на тэр. Беларусі. У канцы 1920—21 вяла барацьбу з войскамі ген С. Н Булак-Балаховіча (гл. *Булак-Балаховіча паход 1920*), з атрадамі Паўлоўскага, Караткевіча і інш ў Бабруйскім, Мазырскім і Ігуменскім пав У ліп. 1921 — маі 1922 дывізія ўваходзіла ў склад войск Мінскага р-на. З жн. 1922 дывізія ў складзе 5-га стралк. корпуса. Потым яе дыслакацыя сярод войск БВА неаднаразова мянялася. У 1939 удзельнічала ў паходзе войск БВА у Зах. Беларусь і размясцілася ў раене г. Ставіскі Кольнаўскага р-на Беластоцкай вобл. У пач. Вял Айч. вайны ў складзе 3-й арміі Зах. фронту вяла абарончыя баі ў т. зв. «беластоцкім мяшку» Загінула ў гэтых баях.

*Кр* Директивы командования фронтов Красной Армии (1917—1922 гг) Сб документов М, 1978 Т 4 С 558—559

*Б Дз Далгатовіч*

**ВО́СЬМЫ З'ЕЗД КП(б)Б** [XIII канферэнцыя КП(б)Б]. Адбыўся ў Мінску 12—14 5 1924. Прысутнічала 198 дэлегатаў з рашаючым і 83 з дарадчым галасам ад 13 975 чл. і канд. у чл. партыі.

Парадак дня 1) Даклад аб рабоце ЦКК РКП(б) (I I Шварц), 2) Справаздачы Часовага Бел бюро ЦК РКП(б) (А М Асаткін-Уладзімірскі), Часовай Кантрольнай камісіі (Р М Вендэ), 3) Аб унутраным гандлі і кааперацыі (А Р Чарвякоў), 4) Аб рабоце ў весцы (В У Дзякаў), 5) Аб рабоце сярод моладзі (М С Арэхва), 6) Партыйна-арганізацыйнае пытанне (В А Багуцкі), 7) Выбары кіруючых органаў партыі

На з'ездзе заслухана справаздача *Часовага Беларускага Бюро ЦК РКП(б)*, якое кіравала ўсімі арганізац і паліт мерапрыемствамі па *ўзбуйненні БССР* — афіцыйна аформленае ў сак 1924 далучэнне паветаў Віцебскай, Гомельскай і часткі Смаленскай губ. з большасцю бел. насельніцтва (фактычнае вяртанне ўсх бел зямель, якія ў 1919 па паліт матывах былі ўключаны ў склад РСФСР) З'езд ухваліў дзейнасць ЦКК РКП(б), узбуйненне БССР і работу Белбюро па «стварэнні адзінага арганізма Кампартыі Беларусі» Звернута ўвага на тое, што пры 70 % бел насельніцтва ў апараце кіраўніцтва БССР прапарцыянальна вялікая колькасць прадстаўнікоў інш нацыянальнасцей; беларусаў у ЦВК і СНК БССР было 35,5 %, у складзе калегій наркаматаў — 22 % і толькі ў сельсаветах — 91 % З'езд паставіў задачы павялічыць пралетарскую праслойку ў партыі, дабіцца стварэння ячэек на ўсіх прамысл. прадпрыемствах, прымаць у партыю лепшых прадстаўнікоў бяднейшага сялянства і вясковай інтэлігенцыі. Адзначыўшы поспехі ў аднаўленні прамысловасці і сельскай гаспадаркі, спыненне дэкласавання пралетарыяту, рост яго колькасці і паляпшэнне матэрыяльнага становішча, з'езд разам з тым указаў на раскіданасць прамысл прадпрыемстваў, вельмі старое тэхн абсталяванне большасці з іх, недахоп шляхоў зносін і інш. Вызначыў мерапрыемствы па выцясненні капіталіст. элементаў у весцы, але адзначыў, што 70 % сялян складаюць серадпякі. Галоўным у рабоце парт. арг-цый на весцы з'езд лічыў каапераванне шырокіх сялянскіх мас; абавязаў парт. арг-цыі клапаціцца, каб бядняцкім і серадняцкім гаспадаркам аказвалася дапамога танным крэдытам, інш. льготамі, каб узмацніць к-ты сялянскай узаемадапамогі Падкрэслівалася неабходнасць росту дзярж. і каап гандлю, аваладанне рынкам, выцясненне з гандлю прыватніка. З'езд сфармуляваў задачы па ўзмацненні арганізац. і прапагандысцкай работы парт. ячэек, паляпшэнні кіраўніцтва камсамолам. Пытанне адукацыі на з'ездзе не разглядалася, але было адзначана, што каля 70 % насельніцтва з'яўляецца непісьменным. Пра нізкі ўзровень адукацыі ў рэспубліцы сведчыў і склад дэлегатаў 1 % з вышэйшай адукацыяй, 18,3 % з сярэдняй, астатнія з пачатковай Аднак асн ўвага была засяроджана на неабходнасці вывучэння ленінізму Пачалі ствараццa цэнтральная і раенныя саўпартшколы, у гар. партарганізацыях — вячэрнія партшколы і школы палітграматы. На з'ездзе гучала думка пра сусветную рэвалюцыю, якую можна паскорыць сваімі поспехамі. Асобныя дэлегаты ўзнімалі праблемныя пытанні, напр. супярэчнасць палітыкі нэпа (В Ф. Шаранговіч), аднак яны не былі падтрыманы.

Замест Часовага Бел Бюро ЦК

РКП(б) і Часовай Кантрольнай камісіі выбраны ЦК КП(б)Б у складзе 25 чл. і 7 канд, ЦКК — 16, Цэнтр. рэвізійная камісія з 5 чл. На пленуме 15.5.1924 выбрана Бюро ЦК КП(б)Б (чл Я А. Адамовіч, А М Асаткін-Уладзімірскі, В У Дзякаў, П Д. Мядзведзь, В П. Трунтаеў, Ш Ш. Ходаш, А Р. Чарвякоў) і сакратар ЦК КП(б)Б — Асаткін-Уладзімірскі

*Кр* XIII конференция Коммунистической партии (больш ) Белоруссии Стеногр отчет Мн, 1924 *У К Коршук*

**ВО́СЬМЫ УСЕБЕЛАРУ́СКІ З'ЕЗД СА ВЕ́ТАЎ** рабочых, сялянскіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў. Адбыўся ў Мінску 5—12.4 1927 Прысутнічалі 676 дэлегатаў з рашаючым і 225 з дарадчым голасам

Парадак дня· справаздача ўрада БССР (дакл Я А. Адамовіч); даклад Народнага камісарыята земляробства (дакл Дз. Ф Прышчэпаў), даклад Народнага камісарыята асветы (дакл. А. В Баліцкі), аб становішчы і буд-ве гарадоў (дакл М. М. Карклін), аб прамысловасці (дакл С В Карп); Канстытуцыя БССР (дакл М. А. Сегаль); выбары ЦВК БССР і чл Савета Нацыянальнасцей ЦВК СССР.

З'езд прайшоў пад сцягам пацвярджэння таго, што БССР з'яўляецца неад'емнай часткай Сав. Саюза, хоць у прынятай Канстытуцыі былі дэкларатыўныя палажэнні аб незалежнасці рэспублікі. Старшыня ЦВК БССР А. Р. Чарвякоў заявіў, што «усю сваю працу мы вядзем пад знакам абароны Савецкага Саюза ад сутычак з буржуазнымі дзяржавамі». Гэтым ен пацвердзіў, што Беларусі адводзіцца роля буфера ва ўзаемаадносінах СССР і зах. краін З'езд ухваліў дзейнасць урада БССР у справе гасп. і культурнага будаўніцтва, зацвердзіў пастановы ЦВК і СНК аб далучэнні да БССР Гомельскага і Рэчыцкага пав., праведзеным у 1926 Канстатаваў, што цалкам адноўлены прамысл. прадпрыемствы, сельская гаспадарка дасягнула даваен. ўзроўню, развіваліся розныя формы кааперацыі У прам-сці побач з рэканструкцыяй і развіццем традыц для Беларусі галін (дрэваапрацоўчай, запалкавай, папяровай, тэкстыльнай і інш.) было намечана стварэнне новых — цэментнай, алюмініевай, фасфарытнай, лесахімічнай і інш. Указвалася на неабходнасць спрашчэння кіравання прам-сцю, пашырэння правоў прадпрыемстваў У галіне нар адукацыі адзначаліся станоўчыя вынікі распрацоўкі і пачатку ажыццяўлення ў 1925/26 10-гадовага плана ўвядзення ўсеагульнага абавязковага навучання. Сярод негатыўных з'яў названа наяўнасць у БССР беспрытульных дзяцей Вызначаны мерапрыемствы па паляпшэнні сан. стану гарадоў, забеспячэнні іх электраэнергіяй, камунальнымі служ бамі, пашырэнні жыллевага буд-ва.

З'езд прыняў *Канстытуцыю Беларускай ССР 1927*, якая замацавала міждзяржаўныя адносіны, звязаныя з утварэннем СССР, свабоду слова, саюзаў, друку, права на адукацыю. Выбарчае права атрымалі грамадзяне рэспублікі з 18 гадоў. Былі зацверджаны найвышэйшая ўлада ў БССР — Усебел. з'езд Саветаў, а паміж з'ездамі ЦВК Саветаў БССР, дзярж. герб, сцяг, сталіца рэспублікі Прынятыя з'ездам рашэнні, новая Канстытуцыя БССР былі даволі дэмакратычныя. Гэта адпавядала ўмовам новай эканам палітыкі. Аднак абсалютызаваўся класавы падыход, праяўлялася настойлівае імкненне кіраўніцтва СССР да яшчэ большага ўзвышэння ўлады партыі і інш. атрыбутаў таталітарнай дзяржавы

Спісам і аднагалосна з'езд выбраў ЦВК БССР у складзе 230 чл і 74 канд., а таксама 5 членаў і 3 канд. у Савет Нацыянальнасцей ЦВК СССР. Старшыней ЦВК БССР перавыбраны А Р. Чарвякоў, старшыней СНК БССР — Я. А Адамовіч.

*Кр* Восьмы Усебеларускі з'езд Саветаў Стэнагр справаздача Мн, 1927 *М П Касцюк*

**ВО́ТНЯ,** курганны могільнік *радзімічаў* каля в. Лазаравічы Быхаўскага р-на Размешчаны на паўн. ускраіне вёскі, на правым беразе Дняпра, ва ўрочышчы Вотня. Даследавалі 2 курганы ў 1873 штабс-капітан Нячаеў, 13 курганоў у 1880 А. С. Увараў Пахавальныя абрады — трупаспаленне і трупапалажэнне на гарызонце. Знойдзены 4 *срэбранікі* Уладзіміра Святаславіча [988—1000] 1-га тыпу, дырхем Нуха Ібн-Мансура 976—997, сяміпрамяневыя скроневыя кольцы, лунніцы, пярсценак, абломкі жалезнай грыўні, металічныя падвескі, сердалікавыя, хрусталевыя, шкляныя і інш. пацеркі.

*Літ* Головацкий Я Археологические раскопки курганов, произведенные графом А С Уваровым в имении Вотне Могилевской губернии // Виленский вестн 1880 № 228, Богомольников В В, Равдина Т В О находках монет из Вотни (Верхний Днепр) // Сов археология 1979 № 2 *У У Багамольнікаў*

**ВО́ТЧЫНА,** галоўная форма зямельнай уласнасці ў сярэднявеччы, у гіст. л-ры — тэрмін, якім абазначаецца комплекс зямельнай уласнасці феадалаў і звязаных з ею правоў на залежных сялян. У сацыяльна-эканам. значэнні В — арганізацыйная форма прысваення вотчыннікам прыбавачнай працы (і яе прадуктаў) сялян, аснова панавання феадалаў у сярэдневяковым грамадстве. Паходзіць ад слова «отчина» — зямля або маентак, якія атрыманы ў спадчыну ад бацькоў.

У краінах Еўропы В. фарміравалася ў працэсе феадалізацыі на працягу ўсяго ранняга сярэднявечча У 8—9 ст становіцца пануючай формай зямельнай уласнасці. Адначасова з фарміраваннем В. стварыўся апарат прымусу (адміністрацыя, у т. л. *вотчынны суд*) для арганізацыі эксплуатацыі сялян. Аднак сяляне, падначаленыя вотчыннай уладзе феадала, захоўвалі сваю абшчынную арганізацыю (грамаду) У гіст. л-ры В. адрозніваюцца паводле эканам. структуры, памераў, сацыяльна-саслоўнай прыналежнасці вотчыннікаў, юрыдычнага паходжання правоў. Асновай вытв. дзейнасці В. з'яўлялася сялянская гаспадарка. Для Зах Еўропы спачатку была тыповай В. з панскай гаспадаркай, у 16—17 ст.— без панскай гаспадаркі (чыстая В.) У краінах Цэнтр і Усх. Еўропы з 14—15 ст пашыралася паншчынная гаспадарка, разлічаная на збыт сельскагаспадарчай прадукцыі на ўнутраным і асабліва знешнім рынках У 16—18 ст тут, у зоне другога выдання прыгонніцтва, пануючае становішча атрымала В. са значным узроўнем развіцця панскай прадпрымальніцкай гаспадаркі (фальварак), заснаванай на паншчыннай працы прыгонных сялян Пашырэнне гэтага тыпу В было праяўленнем феад. рэакцыі і прывяло да пагоршання эканам і юрыд становішча сялян

У 11—13 ст на ўсходнеславянскіх землях існавалі В. князёў, баяр, царквы. Асноўным шляхам утварэння баярскіх і царкоўных В. былі княжацкія пажалаванні Наследаванне княжацкіх В адбывалася паводле архаічнага звычаю ад старэйшага брата да малодшых, затым да сыноў старэйшага брата Калі ў малодшых братоў таксама былі сыны, тады В падзялялася на ўладанні асобных «братніх сем'яў» адпаведна генеалагічнаму стану роду. Юрыдычна гэты звычай быў замацаваны рашэннем Любецкага з'езду князёў у 1097. Вымарачная В згаслай галіны лічылася ўласнасцю ўсяго княжацкага роду. Яе наследаванне па жаночай лініі назіралася толькі ў *Галіцка-Валынскім княстве* (магчыма, пад уплывам заходнееўрап. права) «Руская праўда» фіксуе існаванне В баяр («мужоў») і сялян («смердаў»). Галоўнае адрозненне ў іх наследаванні заключалася ў праве баяр наследаваць вымарачную В. («задницу») па жаночай лініі, «задница» сялян адыходзіла князю. У ВКЛ у 14 ст. стан В і іх уладальнікаў рэгламентаваўся «Рускай праўдай» і звычаевым правам папярэдняга перыяду.

На Беларусі тэрмінам «В.» [(в)-отчи(з)на або «имение отчизное»] у гіст крыніцах 14—16 ст абазначалася зямельная ўласнасць, якая перайшла ў спадчыну ад бацькі да дзяцей, таму першапачаткова тэрмін «В.» ўжываўся для абазначэння В не толькі феадалаў, але і сялян У гэты ж перыяд значную частку земляў разам з сялянамі вял князі літ жалавалі ў В. («на вечнасць»), з правам перадачы іх у спадчыну дзецям, перш за ўсе буйным свецкім феадалам пераважна літоўскага паходжання і католікам па веравызнанні, а таксама каталіцкай царкве Правы вотчыннікаў на такія маенткі вызначаліся адпаведнымі прывілеямі (лістамі) «волен он (феадал — Рэд ) и его справедливые наследки то продати, заменити, по души дати, к своему пожиточному а лепшому обернути, как сам наилепей разумеючи». З цягам часу колькасць і памеры В раслі, гэтаму спрыяла ператварэнне ў В часовых выслуг і набытых іншымі шляхамі зямель-

ных уладанняў, якія пры пераходзе ў спадчыну да дэяцей набывалі статус В. Прававы статус В. феадалаў заканадаўча аформлены шэрагам вялікакняжацкіх прывілеяў 14—16 ст і статутамі ВКЛ 1529, 1566, 1588 У адрозненне ад уладальніка «памесця» (г. зн. маентка), пажалаванага ў часовае ўладанне, вотчыннік-феадал меў права перадаваць В ў спадчыну, прадаваць, закладваць і заключаць інш здзелкі Аднак у канцы 15 ст было забаронена адчужаць больш як 1/3 частку В., што было выклікана неабходнасцю забеспячэння абавязковай вайсковай службы членамі роду. Ва ўмовах далейшага развіцця таварна-грашовых адносін гэта абмежаванне тармазіла мабілізацыю зямлі і па патрабаванні феадалаў было скасавана Статутам ВКЛ 1566. Статут ВКЛ 1588 сцвярджаў «Всим станом шляхетского народу яко людем вольным вольно ест и будеть нменьями своими отчизными, материстыми, также и выслужоными на нас, господари, и яким же кольвек обычаем и способом набытыми, вечностью шафовати водле потребы, воли и уподабаня своего отдати, продати, даровати, заменити и на костел записати, в долгу и в сумах завести и заставити ..» (41-ы арт раздзела 3-га), «...не смотречи третее и двух частей, але вси вздоймом, хто их што маеть, будь теж половицу або которую нх часть, або поособну одну, або люди, земли, што хотя от них » (1-ы арт. раздзела 7-га) Як і іншыя формы феад. зямельнай уласнасці і землеўладання, В. мела ўмоўны характар. З усіх маенткаў, акрамя некаторых духоўных, феадалы былі абавязаны несці вайсковую і інш службу вял князю або іншым сваім сеньерам (уладальнікам В.). За невыкананне гэтай умовы маёнтак мог быць канфіскаваны Так шляхта стала поўным гаспадаром зямлі і сялян, якія карысталіся ею З канца 16 ст. тэрмін «вотчына» ў афіцыйных актах паступова выцясняецца раўназначнымі польскімі тэрмінамі «dziedzizna», «imienie ojczyste» і інш., а з канца 18 ст.— рус. тэрмінам «памесце», які абазначаў зямельную ўласнасць дваран незалежна ад спосабаў набыцця гэтай зямлі

У рус крыніцах феад. перыяду і гіст л-ры тэрмін «В.» выкарыстоўваецца для абазначэння адной з форм зямельнай уласнасці феадалаў, для якой характэрна спадчыннасць правоў на зямлю Уласнік В. мог яе перадаць у спадчыну, прадаць, закласці і да т п У 13—15 ст В. стала пераважнай формай феад. зямельнай уласнасці і расла гал. чынам за кошт вялікакняжацкіх пажалаванняў, куплі і інш. Вотчыннікі мелі шэраг прывілеяў, у т. л падатковы і судовы імунітэты. З сярэдзіны 14 ст. ў сувязі з умацаваннем вялікакняжацкай улады і пачаткам утварэння цэнтралізаванай дзяржавы правы вотчыннікаў сталі абмяжоўвацца, у барацьбе з імі вялікакняжацкая ўлада абапіралася на дваранства, якому зямля жалавалася на памесным праве. У 15—17 ст. адрознівалі В. радавыя, купленыя, пажалаваныя і княжацкія, правы іх уладальнікаў былі неаднолькавыя У 17 ст. В. зноў сталі расці за кошт узнагароджвання дваран зямлей У выніку развіцця таварна-грашовых адносін і кансалідацыі пануючага класа адбывалася фактычнае зліцце памесцяў з В Указ ад 23.3.1714 аб адзінаспадчыннасці юрыдычна аформіў зліцце В і памесця У далейшым тэрмін «В.» ўжываўся ў сэнсе зямельнай уласнасці дваран.

*Літ* Фроянов И Я Киевская Русь Очерки соц экон истории Л, 1974, Рапов О М Княжеские владения иа Руси в X — первой половине XIII в М 1977, Свердлов М Б Генезис и структура феодального общества в Древней Руси Л, 1983, Ясинский М Уставные земские грамоты Литовско-Русского государства [Киев 1889], Белоруссия в эпоху феодализма Сб документов и материалов Мн, 1959 Т 1 № 34, 43, 45, 49, Статут Великого княжества Литовского 1529 г Мн, 1960, Статут Великого княжества Литовского 1566 г // Временник имп Московского о-ва истории и древностей российских М 1855 Кн 23, Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 Тэксты Давед Камент Мн, 1989, Владимирский-Буданов М Ф Очерки из истории литовско-русского права Киев, 1889 I Поместья Литовского государства, Любавский М К Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского статута Ист очерки [М, 1892], Его ж Литовско-русский сейм М, 1900, Леонтович Ф И Очерки из истории литовско-русского гражданского права // Журн Мин-ва юстиции 1903 № 8, Его ж Правоспособность литовско-русской шляхты // Журн Мин-ва нар просвещения 1908 № 3, 1909 № 2, 3 Якубовский И Земские привилеи Великого княжества Литовского // Тамсама 1903 № 6, Пичета В И История сельского хозяйства и землевладения в Белоруссии Ч 1 Мн, 1927, Козловский П Г Землевладение и землепользование в Белоруссии в XVIII — первой половине XIX в Мн, 1982, Dąbkowski P Dobra rodowe i nabyte w prawie litewskiem od XIV do XVI w Lwów, 1916, Wawrzynczyk A Rozwój wielkiej własności na Podlasiu w XV i XVI w Wrocław, 1951

*М Ф Спрыдонаў, В Л Насевіч* (В на Русі)

**ВО́ТЧЫННЫ СУД**, суд феадала над залежнымі ад яго людзьмі — прыгоннымі сялянамі — у ВКЛ і Расіі ў 15 — 1-й пал 19 ст. В. с. дзейнічаў на аснове стараж *звычаевага права*. Паводле вотчыннага права, юрысдыкцыі феадала падлягалі не толькі залежныя сяляне, але і інш асобы, што пражывалі на яго землях (гл. *Вотчына*). У ВКЛ такі суд пачаў складвацца ў сярэдзіне 15 ст, калі феадалам дзякуючы вялікакняжацкім прывілеям было дадзена права распараджацца не толькі працай, але і асобай селяніна. Упершыню юрысдыкцыя князеў, рыцараў, шляхты, баяр над «селянами и поддаными» была заканадаўча замацавана ў *Прывілеі 1447*. Артыкул 12 гэтага прывілея рэгламентаваў судовае права феадала і пазбавіў магчымасці залежных ад яго людзей шукаць абароны ад самавольства гаспадара ў дзярж. органах. Судаводства ў В. с ажыццяўляў сам феадал ці службовыя асобы яго дваровай адміністрацыі (соцкія, старосты і інш.). Меры пакарання (цялесныя ці інш.) часам вызначаліся феадалам адвольна Справы па цяжкіх злачынствах павінны былі разглядацца на аснове статутнага заканадаўства В. с. фактычна існаваў да адмены прыгоннага права ў 1861

*Літ* Акты, относящиеся к истории Западной России, собранные и изданные Археографическою комиссиею Спб, 1846 Т 1 С 73—77, Белоруссия в эпоху феодализма Сб документов и материалов Мн, 1959 Т 1 С 124—127, Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 Тэксты Давед Камент Мн, 1989

*Т І Доўнар*

**ВО́ТЧЫННЫЯ МАНУФАКТУ́РЫ**, прадпрыемствы мануфактурнага тыпу (гл. *Мануфактура*) у ВКЛ, Рэчы Паспалітай і Расіі, якія абслугоўваліся прымусовай працай прыгонных сялян *вотчыны* На В. м выкарыстоўвалася рамесная тэхніка, але вытворчасць была заснавана на кааперацыі і тэхнічным падзеле працы Гістарычна былі падрыхтаваны грамадскім падзелам працы, развіццем дробнатаварнай вытворчасці, дыферэнцыяцыяй рамесстваў і працэсам пачатага ўжо т зв першапачатковага накаплення Вотчыннае рамяство існавала ў краінах Усх Еўропы ў сярэднія вякі, найбольш пашыранай была вытворчасць адзення, абутку, прадметаў хатняга ўжытку і ўпрыгожанняў, а таксама будаўнічых матэрыялаў У Рэчы Паспалітай і Расіі В м. ўзніклі ў 17 ст., на Беларусі першыя В. м. паявіліся ў пач. 18 ст. Гэта былі гал. чынам прадпрыемствы, заснаваныя на выкарыстанні ўласнай сельскагаспадарчай і лясной сыравіны, палівa і прылад працы вотчыннікаў. Першае прадпрыемства такога тыпу для вырабу шкла і шклянога посуду пабудавана ў 1717 у фальварку Налібакі Навагрудскага пав. (гл *Налібоцкая шкляная мануфактура*). У 1828 у мяст Урэчча Бабруйскага пав. пабудавана другая В. м. па вырабе шкла (гл *Урэцкая шкляная мануфактура*).

Абодва прадпрыемствы належалі Радзівілам, і вырабы іх ішлі толькі на задавальненне патрэб уладальнікаў гэтых гут. У 2-й пал. 18 ст. вылучаліся суконныя В. м. ў Нясвіжы, Мінску, Брэсце і мануфактуры па вытворчасці шаўковых паясоў у Слуцку (гл. *Слуцкая мануфактура шаўковых паясоў*), а таксама гуты ў мяст Ілья Вілейскага і мяст Мыш (у 1780 працавала 100 чал ) Навагрудскага пав., а таксама жалезаапрацоўчыя прадпрыемствы графа І Храптовіча ў Ашмянскім пав. У канцы 18 ст. ўзнікла некалькі буйных В. м у той частцы Беларусі, якая адышла да Расійскай імперыі пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай. Гэта былі палатнянапарусінавыя прадпрыемствы ў Крычаве (у 1797 — 224 чал.), Шклове (у 1797 — 255 чал ), Добрушы, Старых Буйнічах Магілеўскага пав і інш., канатныя — у Шклове (у 1797 — больш за 50) і Крычаве (да 300 чал.), суконныя — у Дуброўне (у 1793 — 285 чал.), Горках

(у 1795 — больш за 50 чал.), шкляныя — у Валосавічах і Хізаве Рагачоўскага пав., гарбарныя — у Шклове, Беліцы і інш. Большая частка прадукцыі гэтых мануфактур ішла па пастаўках у казну: палатно на парусы для флоту, сукно на абмундзіраванне салдат і матросаў, гарэлка ў казенныя крамы, на ўнутраны і знешні рынак. У 1-й пал. 19 ст пад уздзеяннем развіцця капіталіст. адносін пачаўся занепад В. м., якія сталі тормазам эканам. развіцця Беларусі. Але нават у 1861 59,4 % прамысловых прадпрыемстваў належалі памешчыкам, а прымусовая праца прыгонных сялян пераважала ў лесахімічнай, суконнай, мукамольнай, вінакурнай, дрэваапрацоўчай прамысловасці. Панаванне В. м. і палітыка царызму на Беларусі стрымлівалі развіцце капіталіст. вытворчасці, відаць, таму Беларусь па ўзроўні прамысл. развіцця займала адно з апошніх месцаў у Расійскай імперыі з 66 губерняў і зямель Расіі ў 1861 Гродзенская, Магілеўская, Віцебская, Віленская і Мінская губерні па колькасці прамысл. прадпрыемстваў знаходзіліся адпаведна на 12-м, 27, 36, 48-м і 55-м месцах, па аб'еме вытворчасці — на 28-м, 40, 49, 45, 48-м, па колькасці рабочых на прадпрыемствах — на 30-м, 33, 48, 40-м і 44-м месцах. Адмена прыгоннага права ў 1861 прывяла да ліквідацыі В. м.— адны з іх былі закрыты, другія прададзены купцам і гараджанам, трэцця — перабудаваны на капіталіст лад.

*Літ* Романовский Н Т Развитие мануфактурной промышленности в Белоруссии (вторая половина XVIII — первая половина XIX века) Мн, 1966, Болбас М Ф Развитие промышленности в Белоруссии (1795—1861 гг ) Мн , 1966
*А М Люты*

**ВО́ЎПА,** веска, цэнтр сельсавета Ваўкавыскага р-на. На р. Ваўпянка. За 25 км на Пн ад Ваўкавыска, за 10 км ад чыг. ст Рось, на аўтамаб. дарозе Ваўкавыск — Гродна. 670 двароў, 1544 жыхары (1990)

У 1-й пал. 15 ст. сяло і двор В. ўваходзілі ў склад уладанняў вял. князя ВКЛ і караля Польшчы Казіміра IV Ягелончыка, які ў 1449 падараваў В. канцлеру і ваяводу віленскаму князю А. Гальшанскаму У 1478 тут заснаваны касцел, у канцы 15 ст. пабудавана капліца. У канцы 15 — пач. 16 ст. В.— мястэчка Гарадзенскага пав. У 2-й пал. 16 ст. паводле тастаментаў Аляксандра і Паўла Гальшанскіх В. зноў стала ўладаннем вял. князёў ВКЛ і каралёў Польшчы. Цэнтр староства У 1624 староства набыў канцлер ВКЛ Л Сапега для свайго сына, надворнага маршалка Казіміра. У 1643 апошні прымаў у В. караля Рэчы Паспалітай Уладзіслава IV. У 1775 у В. 21 двор. У 1773 на месцы ранейшага пабудаваны драўляны касцел Яна Хрысціцеля з разнымі алтарамі. 21.1.1793 (паводле інш. звестак 1792) зацверджаны герб В — у блакітным полі выява бабра. З 1795 В. ў Расійскай імперыі, у 1831 за падтрымку Сапегамі паўстанцаў мястэчка канфіскавана на карысць дзяржавы. У 1886 В.— цэнтр воласці Гродзенскага пав У 1893 было 2027 жыхароў, 110 двароў, 2 праваслаўныя капліцы, касцел, сінагога, 2 малітоўныя дамы, школа, бровар, 2 гарбарні, фарбавальня, 25 крам. Праводзілася 5 невял. кірмашоў на год. У 1-ю сусв вайну акупіравана герм. войскам, у 1919—20 была занята польскім войскам, Чырв Арміяй. З 1921 у складзе Польшчы, у Ваўкавыскім пав. Беластоцкага ваяводства З 1939 у БССР, з 12.10.1940 цэнтр сельсавета Ваўкавыскага р-на У Вял Айч. вайну ў 1941—44 пад ням.-фаш. акупацыяй. З 6 1.1965 да 28.7.1967 у Мастоўскім р-не. У 1970 было 956 жыхароў, 274 двары. Цэнтр саўгаса «Воўпа». Школа, Дом культуры, 2 бібліятэкі, бальніца, 2 магазіны Помнік воінам і партызанам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. Збярогся помнік архітэктуры 18 ст.— касцел Яна Хрысціцеля. У весцы па берагах р Ваўпянка селішча 11—13 ст. і пазнейшага часу.

Герб Воўпы. 1792

Касцел Яна Хрысціцеля ў Воўпе.

*Літ* Описание документов и бумаг, хранящихся в Московском архиве Министерства юстиции Кн 21 М , 1915 *В У Шаблюк*

**ВО́ЎЧЫН,** веска, цэнтр сельсавета ў Камянецкім р-не, на р. Пульва. За 55 км на ПдЗ ад Камянца, 10 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск. 193 двары, 502 жыхары (1922).

З пісьмовых крыніц вядомы з пач. 16 ст. як двор у Берасцейскім пав.; належаў Солтанам. У 1586 староста астрынскі Яраслаў Солтан заснаваў у В. царкву святых Мікалая і Георгія У 17 ст належаў Гасеўскім. У 1708 перайшоў да гетмана польнага літ. К Сапегі, які ў 1719 прадаў В. канюшаму вялікаму літ. Якубу Флемінгу. У 1721 В. набыў падскарбі літ. С. Панятоўскі, які пабудаваў у В. палац і касцел Св Тройцы (1733) У 1732 у В. нарадзіўся Станіслаў Антоні — будучы кароль Рэчы Паспалітай Станіслаў Аўгуст Панятоўскі У 1738 маентак у В. набылі Чартарыйскія, якія ў 1744 пабудавалі тут 36-пакаевы палац, пры ім цагляны флігель, тэатр, аранжарэю, цяпліцы Княжацкія пакоі былі абабіты габеленамі і пазалочаным дамаскам, падлога выкладзена эбенавым, махагонавым і ружовым дрэвам, разная з бронзай мэбля дастаўлены з Францыі З 1795 у складзе Расійскай імперыі, цэнтр воласці Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. У 1828 В. перайшоў Пуслоўскім, пасля Марчэўскім. У 1880-я гады 102 двары, 804 жыхары, касцел, царква, яўрэйскі малітоўны дом, нар. школа, 24 крамы, вадзяны млын, праводзіліся 3 кірмашы на год. З 1921 у складзе Польшчы. З 1938 у Троіцкім касцеле захоўваліся астанкі Станіслава Аўгуста Панятоўскага. З 1939 веска ў БССР, з 12.10.1940 цэнтр сельсавета ў Высокаўскім р-не. У Вял. Айч. вайну акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 да ліп. 1944. З 17.4.1962 у Камянецкім р-не. У 1970 у В. 162 двары, 460 жыхароў. Цэнтр калгаса «Прагрэс» У весцы сярэдняя школа, бібліятэка, Дом культуры, бальніца, амбулаторыя, аптэка, аддз сувязі, 4 магазіны Брацкая

Троіцкі касцел у в Воўчын.

магіла сав. воінаў, што загінулі ў Вял. Айч. вайну; помнік на магіле ахвяр фашызму. Помнікі архітэктуры. Троіцкі касцёл пач. 18 ст., палац сярэдзіны 19 ст.

*В А Міронаў, В У Шаблюк*

**«ВПЕРЁД!»**, 1) рускі рэвалюцыйна-народніцкі эмігранцкі часопіс. 1-я кніга часопіса («неперыядычнага агляду») выйшла ў 1873 у Цюрыху, астатнія 4 кнігі — у Лондане ў 1874 і 1876—77.

2) Руская рэвалюцыйна-народніцкая эмігранцкая газета. Выдавалася ў студз. 1875 — снеж. 1876 у Лондане 2 разы на месяц. Выйшла 48 нумароў.

Часопіс і газета выдаваліся П Л. Лаўровым і з'яўляліся рупарам «лаўрысцкага» кірунку ў народніцтве, які вызначаўся высокімі патрабаваннямі да навук. падрыхтоўкі рэвалюцыянераў, а ў пытаннях тактыкі аддаваў перавагу прапагандысцкай працы. Нелегальна распаўсюджваліся ў Расіі і на Беларусі Адным з аўтараў выданняў быў М. К. *Судзілоўскі* Карысталіся вялікай папулярнасцю ў рэв. асяроддзі Беларусі амаль ва ўсіх народніцкіх гуртках пры вобысках выяўляліся іх экземпляры, па матэрыялах часопіса і газеты вялася актыўная рэв. прапаганда.

*Літ* Переписка К Маркса и Ф Энгельса с русскими политическими деятелями 2 изд М 1951, Вперед! Сб ст, посвящ памяти П Л Лаврова Пг, М, 1920, Лавров П Л Народники-пропагандисты, 1873—1878 гг 2 изд Л 1925, Веревкин Б П Русская нелегальная революционная печать 70-х и 80-х годов XIX в М, 1960

*М Б Ласінскі*

**«ВПЕРЁД, НА ВРАГА́»**, газета, орган Браньскага падпольнага міжрайкома КП(б)Б Беластоцкай вобл. ў Вял. Айч. вайну Вядома 6 нумароў за 1.1 — 28.6. 1944 на рус. і польскай мовах.

**«ВПЕРЁД НА ВРАГА́»**, баявы лісток, выданне маладзежнай антыфашысцкай газеты *«Молодой партизан»* Беластоцкай вобл. ў Вял. Айч вайну. Вядомы 1 нумар ад 20 6 1944

**«ВРЕМЕННИ́К ИМПЕРА́ТОРСКОГО МОСКО́ВСКОГО О́БЩЕСТВА ИСТО́РИИ И ДРЕ́ВНОСТЕЙ РОССИЙ-СКИХ»**, рускі навукова-гістарычны часопіс, орган Маскоўскага т-ва гісторыі і старажытнасцей расійскіх. Выдаваўся ў 1849—57 у Маскве, працяг час. «Чтения в императорском Обществе истории и древностей российских при Московском университете» (1845—48). Рэдактар — сакратар т-ва І. Дз. Бяляеў. Выйшла 25 кніг Друкаваў даследаванні па стараж. рускай і славянскай гісторыі, гіст. крыніцы, пратаколы пасяджэнняў таварыства. Апублікаваў тэксты Статутаў ВКЛ «Стары літоўскі статут 1529 года» (1854, кн 18), «Статут Вялікага княства Літоўскага 1566 года» (першая публікацыя; 1855, кн. 23), «Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 года» (1854, кн. 19) Тэксты друкаваліся кірыліцай Статут 1529 — па рукапісным спісе 17 ст з бібліятэкі б. Віленскай акадэміі (дастаўлены А В. Сяменавым) з выкарыстаннем у якасці варыянтаў спісаў Дзялынскіх, Фірлеўскага і Слуцкага; Статут 1566 — па Румянцаўскім спісе, папраўы 1578 — па рукапісе 1643; Статут 1588 — па выданні Віленскай друкарні Мамонічаў 1588 з артыкулам Сяменава «Аб падабенстве старажытных узаконенняў Усходняй і Заходняй Русі» (1854, кн 19). Тэксты Статутаў у 1854 і 1855 дадзены таксама асобнымі адбіткамі. Сярод публікацый часопіса «Грамата вялікага князя Вітаўта 1390 г.» (1849, кн. 3), «Спатканне Пятра Вялікага з Аўгустам II у Біржах Рукапісны дзённік (Diariusz) польскага дыпламата...» (1853, кн. 17), «Запісная кніга Яна Цадроўскага, уласнаручна пісаная, помнік гістарычны XVII стагоддзя ..» (1855, кн. 23; тэкст пададзены ў арыгінале — на польск. мове і паралельна ў перакладзе на рускую), «Тетрадь; в ней писаны рубежи городу Полотцку и Полотцкому повету с Виленским поветом и с Витебским и с ными порубежными городы, и рубежи городу Озерищу с Витебском и с Суражом и с иными порубежными месты» (1856, кн. 24), «Трыбунал жыхарам Вялікага княства Літоўскага, на сойме Варшаўскім дадзены року 1581» (1857, кн. 25)

*Літ* Белокуров С А Указатель ко всем периодическим изданиям имп Общества истории и древностей российских при имп Московском университете по 1915 г [М, 1916], Кніга Беларусі, 1517—1917 Зводны кат Мн, 1986 С 256—257

*С А Кузняева*

**ВУ́ЗЛА**, веска ў Сваткаўскім сельсавеце Мядзельскага р-на, на левым беразе р Вузлянка. За 18 км на Пд ад Мядзела, 35 км ад чыг ст. Княгініна, на шашы Мядзел — Вілейка. 251 жн., 104 двары (1993).

У пісьмовых крыніцах В. ўпершыню ўпамінаецца ў 1524 як маентак Альжбеты Багданаўны Саковічаўны (удавы віленскага ваяводы і канцлера ВКЛ Мікалая Мікалаевіча Радзівіла) У 1544 перайшла да Ганны Янаўны Забярэзінскай (жонка Фрыдрыха Іванавіча Сапегі). Пазней валодаў трокскі ваявода Ян Янавіч Глябовіч на Дуброўне (памер у 1590), які яшчэ пры жыцці аддаў В. ў заставу вострскаму старосце Лаўрыну Ратомскаму. У 17 ст. ўладальнікамі В. былі Свалынскія, з 1648 полацкі ваявода, гетман ВКЛ Януш Кішка. Пасля смерці апошняга ў 1653 В. як вымарачны маентак падаравана яго пляменніку гетману ВКЛ кн. Янушу Радзівілу У 1773 В., абцяжараная даўгамі, прысуджана ва ўласнасць Раману Яну Данілевічу. Уваходзіла ў Ашмянскі пав. Віленскага ваяв. ВКЛ. З 1793 у складзе Расійскай імперыі. У 1799 маентак купілі Ваньковічы. З 1821 валодала Валерыя Ваньковічаўна, жонка графа Канстанціна Тызенгаўза. У 1827 ён пабудаваў у В. драўляную Успенскую царкву (зруйнавана ў пач 1980-х гадоў). З 2-й пал. 19 ст В ў складзе Мядзельскай вол. Вілейскага пав Віленскай губ., валодалі графы Пшаздзецкія У 1886 панская сядзіба, бровар, саладоўня, валюш, вадзяны млын і карчма, якія належалі маентку, праваслаўная царква (на могілках). У канцы 19 ст. нар. вучылішча. У 1-ю сусв. вайну каля В лінія фронту У 1918—20 занята герм., польскім войскамі, Чырв. Арміяй. З 1921 у складзе Польшчы, у Пастаўскім пав. Віленскага ваяв. З 1939 у БССР, з 12.10.1940 у Мядзельскім р-не. З ліп. 1941 да ліп. 1944 акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 23.12.1965 цэнтр Брусаўскага сельсавета (з 1.10. 1973 Вузлянскага). У 1970 272 ж, 85 двароў. З сак. 1987 у складзе Сваткаўскага сельсавета. Брыгада калгаса імя Леніна, лясніцтва. 8-гадовая школа, клуб, б-ка, дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі пункт, аддз сувязі Брацкая магіла рус. салдат, якія загінулі ў 1-ю сусв. вайну. Помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч вайну

*Г М Брэгер*

**ВУЛЬ** Ялегі́ Пранціш [сапр. Карафа-Корбут Элігій Францішак Маўрыкіевіч; 9(21).4.1835, Віцебск — 1880-я гады], беларускі паэт З 1846 вучыўся ў Віцебскай гімназіі, якую не скончыў. У 1856—62 працаваў пісцом у губ. палаце дзярж. маемасцей, адначасова ўваходзіў у гурткі перадавой моладзі Віцебска. Прымаў актыўны ўдзел у гімназічных «літаратурных гутарках», для якіх напісаў сачыненні «Успамін дзяцінства і юнацтва» (1851), «Віцебск» (1852), «Хрэсьбіны ў беларускіх сялян» (1853), «Пра Дзяржавіна наогул і пра оду «Бог» у прыватнасці» (1854). Як паэт фарміраваўся пад уплывам А Вярыгі-Дарэўскага, Г. Марцінкевіча, К Вераніцына, з якім звязваюць напісанне паэм «Тарас на Парнасе» і «Два д'яўлы». У 1859 В. упісаў у вядомы «Альбом» Вярыгі-Дарэўскага верш «К дудару Арцему ад наддзвінскага мужыка» — адзін з лепшых узораў бел. грамадзянскай лірыкі сярэдзіны 19 ст Высокім майстэрствам вылучаецца таксама ўпісаны ў «Альбом» Вярыгі-Дарэўскага польскі верш В. «Няновая думка» (1859) Вядомы яго паэтычны зварот на польскай мове да паэта Э Жалігоўскага (А Савы), які прыязджаў у Віцебск В і ўся яго сям'я прынялі актыўны ўдзел у паўстанні 1863—64. Паводле прыгавору ваен суда ён і яго брат-гімназіст Вільгельм былі сасланы ў Сібір, на пасяленне, бацька атрымаў 8 гадоў катаргі. Пасля вяртання з ссылкі В. жыў у Варшаве, дзе разам з В. Карацынскім і А Плугам стварыў бел. гурток Паэтычныя творы яго пры жыцці не друкаваліся. Як паведамляў М. Гарэцкі, апрача верша «К дудару Арцему ..» у В былі «і другія беларускія творы», але цяпер яны невядомы. Пра віцебскія культ. навіны пісаў у 1860 у варшаўскую «Gazetu codziennu» («Штодзенную газету»).

*Літ*. Пачынальнікі З гіст.-літ матэрыялаў XIX ст / Уклад Г В Кісялёў Мн, 1977 С 367—376, Беларуская літаратура XIX ст Хрэстаматыя / Склад А А Лойка, В П Рагойша 2 выд Мн, 1988, Киселев Г В Разыскивается классик Ист-лит дилогия Мн, 1989 С 274—276, Яго ж Хто вы Карафа — Корбуты? // Полымя 1992 № 3 Беларускія пісьменнікі Біябібліягр слоўнік

Т 2 Мн, 1993, Запрудскі І Вядомы адным вершам // ЛіМ 1993 19 сак
*Г В Кісялеў*

**ВУ́ПРАЖ,** збруя для коннай або валовай запрэжкі. На Беларусі, паводле археал. крыніц, вядома з 11 ст. Паводле прызначэння падзяляецца на транспартную (для перавозкі пасажыраў і грузаў) і рабочую (для работы з землярobчымі прыладамі сахой, бараной, плугам). Да В. не адносіцца амуніцыя для верхавой язды Вылучаюць 3 тыпы В. хамутовую, калі асн частку В. складае хамут у комплексе з інш. элементамі (пашырана на ўсей тэр. Беларусі, асабліва ў паўн. і ўсх. яе частках), шлейную, калі пры запрaганні ў пастронкі ў мнагаконных экіпажах замест хамута выкарыстоўвалі спецыяльна шытую шляю ў выглядзе шырокага рэменя; ярэмную для запрэжкі валоў (была пашырана ў сял. гаспадарках паўд.-зах Беларусі амаль да сярэдзіны 20 ст) В. ярэмнага тыпу самая старажытная, вядома з часоў позняга неаліту. Кожны з састаўных элементаў В. адрозніваўся формай, матэрыялам (скура, пянька, валокны ліпавай кары і інш.). В часта ўпрыгожвалі, асабліва выязную. Сродкамі аздаблення былі колер, узорыстае шытво, шво, цісненне, дэкаратыўныя дэталі (бразготкі, металічныя накладкі, махры, кутасы). Выязная В выконвала важную ролю ў бел. абрадах вяселля, масленіцы, у кірмашовых святах, гасцінах і інш.

**«ВЫ́БАР»,** газета, выдаецца з кастр. 1991 у Віцебску на бел. мове. Заснавана Віцебскім гар. клубам выбаршчыкаў «За дэмакратычныя выбары». Друкуе тэматычныя старонкі, прысвечаныя праблемам культурна-рэліг. жыцця, бел. мове, матэрыялы пра рэпрэсіі на Беларусі, бел эміграцыю, дзейнасць сучасных дэмакр. партый і рухаў. Асвятляе праблемы прыватызацыі дзярж. маемасці, стварэння фермерскіх гаспадарак. Змяшчае матэрыялы пра гісторыю Віцебска і яго арх помнікі (старонка «Стары горад» Віцебскага культ.-асв. клуба «Узгор'е»), нац.-адраджэнскія арг-цыі моладзі «Аб'яднанне беларускіх скаўтаў», «Выбранецкія шыхты» і інш. Публікуе аналіз матэрыялаў мясцовай прэсы «Па старонках тутэйшых газет», рэкламу перадач замежных радыестанцый на бел. мове, аператыўную інфармацыю.

**ВЫ́БАРГСКАЯ АДО́ЗВА,** «Народу ад народных прадстаўнікоў», зварот групы дэпутатаў 1-й Дзяржаўнай думы — кадэтаў, трудавікоў, сацыял-дэмакратаў (кадэтаў каля 120, прадстаўнікоў інш. партый каля 80). Прынята ў Выбаргу 10.7.1906 у адказ на роспуск Думы. Сярод падпісаўшых адозву — дэпутаты ад бел. губерняў кадэты Г. Я. Брук, А. А. Валковіч, А. Р. Лядніцкі, А. Я. Хамянтоўскі, Р. М. Цверды, трудавікі **Ф. Я** *Буслаў*, В. Р. Якубсон. Адозва заклікала грамадзян Расіі да склікання Думы не даваць «ні капейкі ў казну, ні аднаго салдата ў войска» Пазыкі, якія будуць заключаны без згоды Думы, аб'яўляліся несапраўднымі. На Беларусі В. а. актыўна распаўсюджвалі мясц. арганізацыі РСДРП, Бунда, эсэраў, Беларуская сацыялістычная грамада. Летам 1906 адозва стала самай вядомай пракламацыяй сярод бел. сялян. У жн. 1906 яна была выяўлена паліцыяй на кірмашах амаль усіх гарадоў Беларусі, не менш чым у 60 вёсках і мястэчках В. а. актывізавала на Беларусі кампанію эканам байкоту царскага ўрада, спрыяла росту паліт. свядомасці сялян. Дзякуючы дзейнасці дэпутатаў 1-й Дзярж. думы трудавікоў С. П. Кандрашука і Буслава адозва мела асабліва шырокі водгук у Гродзенскай і Магілеўскай губ За адмову плаціць падаткі сяляне Гарадзецкай вол Чавускага пав былі пакараны розгамі.

Супраць дэпутатаў Думы, што падпісалі В а., улады пачалі судовае праследаванне. 12—18.12.1907 Асобая ўстанова (прысутствие) Пецярбургскай судовай палаты прыгаварыла 167 абвінавачаных (з 169) да трох месяцаў турмы кожнага, што азначала пазбаўленне іх выбарчых правоў пры выбарах у Думу і на грамадскія пасады.

*Кр* Дело о Выборгском воззвании Стеногр отчет о заседаниях Особого присутствия С-Петербургской судебной палаты 12—18 дек 1907 г Спб, 1908, Первая Государственная дума в Выборге // Красный архив. 1933 Т 2 (57)

*Літ* Черменский Е. Д Буржуазия и царизм в первой русской революции 2 изд М, 1970, Состав трудовой группы в I и II Государственных думах Сводная табл членов фракции М, 1988
*С С Рудовіч, З В Шыбека*

**ВЫБРА́НЦЫ,** ваенна-служылая група сельскага насельніцтва ў Польшчы, на Беларусі і ў Літве ў 16—18 ст. У Польшчы пяхота з В. узнікла ў 1578 па ініцыятыве караля Стэфана Баторыя на ўзор венгерскай пяхоты, у ВКЛ — у 1595. Выбіралі В. у каралеўскіх маентках (1 чал. ад 20 двароў). За сваю службу В. і іх сем'і вызваляліся ад усіх падаткаў і павіннасцей, прывілеі В. («выбранецкае права») пашыраліся на іх нашчадкаў. У пач. 17 ст. ў войску ВКЛ было 12 рот В. (крыху больш за 1 тыс. чал.). Яны ўдзельнічалі ў ваине Рэчы Паспалітай з Расіяй у 1609—18 У 1-й пал 17 ст. магнаты ВКЛ стваралі атрады В. і ў прыватных войсках, набіраючы іх з дробнай шляхты, «вольных людзей» і сялян. За вайсковую службу В. атрымлівалі «ў вечнасць» зямлю. У 2-й пал. 17 ст. В. асталіся толькі на Случчыне (вёскі Агароднікі, Бранавічы, Варкавічы, Лучнікі, Падзеры, Сярагі) Яны неслі службу ў слуцкім гарнізоне (пяхота, мушкецеры, грэнадзёры), у залежнасці ад вайсковага звання мелі зямельныя надзелы ад 0,5 да 1,5 валокі, якія пераходзілі ў спадчыну па мужчынскай лініі. Фармальна (з 1659) В. лічыліся ў войску ВКЛ, фактычна ж былі васаламі магнатаў, мелі прывілеі ад каралёў і магнатаў, вызваляліся ад падаткаў Зброю і мундзіры куплялі за свой кошт, адзін тыдзень В служылі, другі — працавалі на сваім надзеле У судовых адносінах яны былі экстэрытарыяльныя, падсудныя толькі суду ваеннага губернскага Слуцкага княства, у спрэчных справах са шляхтай, гараджанамі і сялянамі В. судзіліся ў замкавым судзе Пасля далучэння Беларусі да Расійскай імперыі і скасавання слуцкага гарнізона Дамінік Радзівіл у 1808 намагаўся перавесці В. (каля 1500 чал.) на паншчыну, што выклікала іх бунт і перадачу справы ў расійскія суды. Частка В даказала свае правы на дваранства, іншыя — на вольнасць. У 1811 яны былі залічаны ў разрад *вольных хлебаробаў*, але працягвалі судовую справу супраць Радзівіла, адстойваючы свае правы на волю і зямлю У 1834 Дзярж. савет і цар Мікалай 1 прызналі іх «не залічанымі ў сялянства», В былі прызнаны вольнымі, але іх зямля — памешчыцкай. Тады В. адмовіліся плаціць чынш нашчадку Д Радзівіла кн. Вітгенштэйну. Толькі ў 1846 Слуцк і землі 6 выбранецкіх весак былі выкуплены ў яго дзяржавай. У 1868 В., спрабуючы замацаваць свае правы на зямлю, патрабавалі вылучыць іх вёскі ў асобную воласць, але міравы з'езд пасрэднікаў адмовіў ім, не жадаючы патураць «шляхецкай пагардзе да хлопства» У 1870 В атрымалі люстрацыйныя акты на зямлю і ў 1871 перайшлі на выкупныя плацяжы Да пач 20 ст. мелі спецыфічныя рысы побыту, некаторыя В, што захавалі граматы, былі адноўлены ў правах дваранства.

*Літ* Грыцкевіч А Беларускія выбранцы // Полымя 1970 № 11, Яго ж Материалы из истории слуцких выбранцев как источник по крестьянской генеалогии // Сов славяноведение 1973 № 5
*А П Грыцкевіч*

**ВЫ́ВАЗ НА ФАШЫ́СЦКУЮ КА́ТАРГУ,** насільная адпраўка ням.-фаш. акупацыйнымі ўладамі сав. грамадзян на прымусовыя работы ў Германію ў Вял. Айч вайну

Правал планаў *«маланкавай вайны»*, значныя страты ў жывой сіле на сав.-германскім фронце патрабавалі мабілізацыі ў вермахт усе большых чалавечых рэсурсаў, што пазбаўляла прамысловасць і сельскую гаспадарку фаш. Германіі патрэбнай колькасці рабочых рук. Гэты недахоп рабочай сілы фаш. улады імкнуліся папоўніць за кошт асоб, насільна вывезеных з акупіраванай тэр СССР.

Вываз на катаргу з'яўляўся часткай злачыннага *акупацыйнага рэжыму* і меў на мэце атрымаць дармавую рабочую сілу, падарваць базу росту партыз руху. Ужо ў ліст. 1941 было дадзена ўказанне па выкарыстанні «рускай рабочай сілы» ў Германіі У пач 1942 пастаўлена задача вывезці з акупіраваных абласцей СССР на работы ў Германію 15 млн. чал. Гаспадарчай інспекцыі групы армій «Цэнтр» і кіраўніцтву генеральнай акругі Беларусь прадпісвалася штодзенна накіроўваць у рэйх па 500—1000 рабочых. Вываз на фаш. катаргу ажыццяўляла спец. ведамства на чале з генеральным упаўнаважаным па выкарыстанні рабочай сілы, а таксама войскі і паліцыя.

Фашысты арганізоўвалі на сав. людзей аблавы, хапалі працаздольных мужчын, жанчын і падлеткаў і пад канвоем адпраўлялі ў перасыльныя лагеры. У Мінску знаходзілася спец. каманда групы армій «Цэнтр», якая займалася адпраўкай падлеткаў на ваен прадпрыемствы Германіі. У цэлым гітлераўцам удалося захапіць і вывезці ў Германію з акупіраваных абласцей СССР каля 5 млн. чал., у т. л. з Беларусі каля 380 тыс чал. У снеж. 1943 часці вермахта і паліцыя пачалі выконваць распараджэнне фаш. верхаводаў аб адпраўцы на прымусовыя работы ўсіх працаздольных, уключаючы 10-гадовых дзяцей. Гэта злачынная акцыя была разлічана на падрыў біялагічнага патэнцыялу нашага народа. Умовы жыцця і працы сав. людзей у Германіі былі выключна цяжкімі. Яны рэгламентаваліся спец. інструкцыяй, у якой гаварылася, што «ўсе рабочыя павінны атрымліваць такую ежу і такое жылле і падвяргацца такому абыходжанню, якія давалі б магчымасць эксплуатаваць іх у самай высокай ступені і пры самых мінімальных затратах». Сярод вывезеных былі шматлікія захворванні і вял. смяротнасць. Ратаванне сав. людзей ад вывазу ў фаш. рабства было адной з важнейшых задач падп. парт. органаў, партызан і падпольшчыкаў. ЦК КП(б)Б, СНК і Прэзідыум Вярх. Савета БССР у звароце да насельніцтва рэспублікі ад 6.2.1943 раскрывалі злавесныя намеры гітлераўцаў па масавым вынішчэнні і вывазе сав. людзей у Германію. 21.9.1943 ЦК КП(б)Б разаслаў падп. парт. органам і камандаванню партыз. брыгад і атрадаў дырэктыву «Аб задачах падпольных партыйных арганізацый і партызанскіх атрадаў Беларусі па ратаванні насельніцтва ад вынішчэння і вывазу ў рабства пры адступленні нямецкіх войск», у якой патрабаваў усімі даступнымі сродкамі ахоўваць насельніцтва, падкрэсліваў, што выратаванне народа ад знішчэння і вывазу ў рабства будзе гіст. заслугай партыз. руху на Беларусі. Падпольшчыкі і партызаны праводзілі растлумачальную работу сярод насельніцтва, своечасова папярэджвалі пра небяспеку, знішчалі «біржы працы», з дапамогай урачоў-патрыётаў дабіваліся вызвалення сав. людзей ад вывазу на катаргу шляхам выдачы фіктыўных даведак аб захворваннях, знішчалі канвоі, якія суправаджалі калоны з сав. людзьмі, нападалі на чыг. эшалоны, у якіх акупанты везлі асуджаных, вызвалялі насельніцтва з фаш. лагераў, выводзілі з гарнізонаў і бралі пад сваю ахову. У партыз. зонах і ў лясах ствараліся т. зв. «лясныя» (сямейныя) лагеры. На ахове такіх лагераў на Беларусі было занята 70 тыс. партызан. На тэр. Мінскай вобл. партызаны хавалі каля 70 тыс. жыхароў Мінска, Барысава, Слуцка, інш. гарадоў і весак. Усяго партызаны вобласці выратавалі каля 570 тыс. мірных грамадзян, якія пакінулі свае месца жыхарства. Частка насельніцтва з акупіраванай тэр. рэспублікі была праз лінію фронту перапраўлена ў сав. тыл. Толькі ў кастр.—снеж. 1943 разам з партызанамі Беларусі за лінію фронту выйшла больш за 40 тыс. мірных грамадзян. Усяго з акупіраванай тэр. рэспублікі ў сав. тыл перапраўлена каля 90 тыс. чал. З прыходам сав. войск на тэр. Германіі і інш. краін пачалося вызваленне і вяртанне сав. людзей на Радзіму.

*Літ* Массовый угон населения на рабский труд // Нюрнбергский процесс Сб материалов М, 1966 Т 3, Всенародная борьба в Белоруссии против немецко-фашистских захватчиков в годы Великой Отечественной войны Т 1—3 Мн, 1983—85

*У І Лемяшонак*

І Я Выгоўскі.

**ВЫВАЛА́НЦЫ**, баніты (лац. bonitas справядлівасць), асобы, пазбаўленыя ў ВКЛ грамадзянскіх правоў і асуджаныя на выгнанне за межы дзяржавы. Выгнаннем (вываланнем) караліся абвінавачаныя ў цяжкіх злачынствах, калі яны не з'яўляліся ў суд па позвах, людзі лезныя, а таксама асобы, якія адмаўляліся выконваць судовыя пастановы. На вечнае выгнанне без права на вялікакняжацкае памілаванне асуджаліся таксама тыя, хто, атрымаўшы ахоўную грамату (ліст жалезны) вял. князя ВКЛ, не апраўдаўся на працягу вызначанага ў ей часу. Не мог быць памілаваны збеглы забойца, ахвяра якога раней звярталася да вял князя за атрыманнем ахоўнай граматы. На працягу 1 года і 6 тыдняў В. маглі атрымаць ад вял. князя не больш чым тры ахоўныя граматы, якія давалі ім магчымасць без перашкод перамяшчацца па тэр. дзяржавы, шукаючы доказы сваей невінаватасці. Ахоўныя граматы, як і рашэнні аб выгнанні (ліст вываланы), абвяшчаліся на кірмашах і ў інш. людных месцах Звесткі пра В. распаўсюджвалі таксама *возныя*. *Т І Доўнар*

**ВЫ́ГАНІЧЫ**, веска ў Ракаўскім сельсавеце Валожынскага р-на. За 45 км ад Валожына, 19 км ад чыг. ст. Беларусь. 313 ж., 117 двароў (1992).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 1475, калі віленскі ваявода М. Кежгайла аддаў двор В., які належаў Ракаўскаму замку, баярыну Булгаку. У 16 ст. ў складзе Менскага пав. ВКЛ. У 17 ст. В. належалі Ракаўскаму графству, уладарамі якога былі Сангушкі. З 2-й пал. 17 ст. В ўзяты пад заклад Матушэвічамі, на сродкі якіх у 1773 пабудавана тут царква (разбурана ў 1960-я гады). У 1794 у В. 115 ж., 19 двароў. У канцы 18 ст. В выкупіў В. Рыльскі. З 1793 у складзе Расійскай імперыі ў Мінскім пав. У 2-й чвэрці 19 ст. веска перайшла да Вайдзевічаў, у якіх узімку 1821—22 жыў дзекабрыст А. А. *Бястужаў* (Марлінскі) Пазней маентак належаў Р. Грушвіцкаму, тут нарадзіўся кампазітар і музыкант М. Р. Грушвіцкі. У 1880-я гады ў В. царква, бровар і вадзяны млын, 112 ж., 15 двароў, у 1909 — 193 ж., 31 двор. З 1921 у складзе Польшчы ў Ракаўскай гміне Маладзечанскага пав. З 1939 у БССР, з 12.10.1940 цэнтр сельсавета Радашковіцкага р-на. З чэрв. *1941* да ліп. 1944 акупіравана ням.-фаш захопнікамі. У 1949 створаны калгас З 16.7.1954 у Ракаўскім сельсавеце Радашковіцкага, з 20.1.1960 Валожынскага р-наў. З 1970 В цэнтр саўгаса, 292 ж., 91 двор, з 1992 — калгаса «Праца». У весцы пач. школа, бібліятэка, клуб, яслі-сад, магазін, пральня. Мемарыяльны знак у гонар А. А. Бястужава. *В П Налецкі, В У Шаблюк*

**ВЫГО́ЎСКІ** Іван Яўстахавіч [? — 16(26).3.1664], гетман Запарожскага войска. Паходзіў з радавітай укр. шляхты. Служыў у польскім войску, у бітве пад Жоўтымі Водамі (1648) трапіў у татарскі палон. Вызваліўшыся з палону, стаў паплечнікам Б. *Хмяльніцкага*, быў генеральным вайсковым пісарам Пасля смерці Хмяльніцкага (1657) казацкая старшына выбрала В. гетманам Запарожскага войска. Арыентуючыся на збліжэнне з Польшчай, В. разам з ваенным кіраўніцтвам Рэчы Паспалітай рыхтаваў план сумеснай барацьбы супраць маскоўскага войска. Падпісаў *Гадзяцкі дагавор 1658*, паводле якога Украіна на федэратыўных асновах зноў уваходзіла ў Польскае каралеўства. Згодна з умовай пагаднення гетман павінен быў вызваліць ад казакоў тэр. Беларусі, да якой у В. быў асабісты інтарэс Яшчэ пры жыцці Хмяльніцкага ён прасіў цара падараваць зямельныя надзелы ў бел Падняпроўі не толькі яму, але і яго радні. Фармальнай падставай для гэтага быў шлюб В. з дачкой буйнога бел. феадала Статкевіча. Як і Хмяльніцкі, В. разглядаў паўд.-ўсх. землі Беларусі як тэрыторыю казацкай дзяржавы. Нейкі час гал. ўдар па царскіх войсках планавалася нанесці на Беларусі, аднак ваенныя дзеянні казакоў пачаліся амаль адначасова на Украіне і Беларусі, дзе імі камандаваў паплечнік В. палкоўнік І. Нячай. Летам 1659 В. пры падтрымцы польскага войска і татар разграміў пад Канатопам буйныя сілы царскага ваяводы А. Трубяцкога. Але большасць казакоў была незадаволена палітыкай В., супраць яго ўзнік нар. рух, які ўзначалілі І. Багун, І. Бяспалы, І. Іскра і інш. В. з групай наёмных палякаў уцек у Польшчу і адмо-

віўся ад гетманства. Там ён атрымаў тытул сенатара і пасаду кіеўскага ваяводы, аднак у выніку інтрыг гетмана Правабярэжнай Украіны П. Пяцеры быў расстраляны.

*Літ* Історія України в документах і матеріалах Т 3 Київ, 1941, Костомаров Н Гетманство Выговского // Костомаров Н. Исторические монографии и исследования Спб, 1863 Т 2 Липинський В Україна на переломі, 1657—1659 Відень, 1920 *Г М Сагановіч*

**ВЫДАВЕ́ЦКАЯ МА́РКА,** фірменны знак выдаўца або выдавецтва, які паказвае на паходжанне і прыналежнасць выдання. У ранні перыяд *кнігадрукавання* ў якасці В м. выкарыстоўвалі гербы, эмблемы, ініцыялы выдаўца. Першай бел. В. м. з'яўляецца сігнет Ф. Скарыны — выява сонца і месяца, якая паўтараецца ў яго выданнях у выглядзе своеасаблівага герба. Вядомы выдавецкія маркі І. Федарава і інш. У 16—17 ст. змяшчалася на вокладцы, тытуле ці яго адвароце. Сучасная В. м. складаецца з абрэвіятуры назвы выд-ва і эмблемы, размяшчаецца на вокладцы, тытульным лісце, авантытуле.

*Літ* Тычина А Н К истории белорусской издательской марки // Книга, библиотечное дело и библиография в Белоруссии (сб ст ) Мн, 1974

**ВЫДАВЕ́ЦТВА БЕЛАРУ́СКАГА ІНСТЫТУ́ТА ГАСПАДА́РКІ І КУЛЬТУ́РЫ.** Існавала ў Вільні ў 1927—36. Выдавала навукова-гуманітарную, маст., муз. і інш. л-ру. Выйшлі паэт. зборнікі зах.-бел. літаратараў Ф. Грышкевіча і В. Адважнага (Я. Германовіч), зб. «Шляхам жыцця» (3-е выд.) Я. Купалы, кніга прыгожага пісьменства, грамадскай думкі і інфармацыі пра грамадскае жыццё «З роднай нівы», манаграфія «Пранцішак Багушэвіч» А. Станкевіча, зб. муз. твораў «За бацькаўшчыну» А. Стаповіча, аднаактовыя п'есы «Першыя ластаўкі» і «Зорка ідэя» Я. Рушчанца, папулярны нарыс кааператыўнай самапомачы «Лекі на здзекі» А Клімовіча Большасць выданняў надрукаваны лацінкай. Закрыта ў сувязі з забаронай польскімі ўладамі дзейнасці Бел. ін-та гаспадаркі і культуры. *А С Ліс*

**ВЫДАВЕ́ЦТВА БЕЛАРУ́СКАГА СЯЛЯ́НСКА-РАБО́ТНІЦКАГА КЛУ́БА.** Існавала ў Вільні ў 1929—30. Заснавана дэпутатамі Бел. пасольскага клуба *«Змаганне»* Выдавала ў асн. паліт. л-ру сацыяліст. арыентацыі ў перакладзе на бел. мову. Выйшлі творы К. Маркса «Барацьба класаў у Францыі 1848—1850 г.» і «18-га брумера Луі Банапарта» (пер. Гарадзенскі), Ф. Энгельса «Развіццё сацыялізму ад утопіі да навукі» (пер. П. Асака), Г. В. Пляханава «Асноўныя пытанні марксізму», І. В. Сталіна «Марксізм і нацыянальнае пытанне» (пад крыптанімам «І. С.»), п'еса І. Тагабочнага «Змагары за ідэю (Каін і Абель)» (пер. з укр. мовы Я. Хвораст). Спыніла існаванне ў сувязі з арыштам польскімі ўладамі 30.8.1930 дэпутатаў і забаронай дзейнасці клуба. *А С Ліс*

**ВЫДАВЕ́ЦТВА У. ЗНАМЯРО́ЎСКАГА,** прыватнае беларускае выдавецтва ў Вільні ў 1920-я — сярэдзіне 1930-х гадоў. Заснавана У. Б. Знамяроўскім. Выпусціла каля 20 кніг арыгінальнай і перакладной маст. л-ры, падручнікаў, слоўнікаў. У 1920—23 выдадзены «Беларускі каляндар на 1920 год», «Сцэнічныя творы» Л. Родзевіча, аповесць «Стася» Дзядзькі Пранука (Ф. Умястоўскага), «Сцэнічныя творы для дзіцячага тэатра», зб. гумарыстычных вершаў «Снапок» А. Паўловіча, «Мае каляды» А. Сумнага, «Руска-беларускі слоўнік» (2-е выд.) М. і Г. Гарэцкіх. У 1926—33 выйшлі «Кароткі нарыс гісторыі Беларусі» (4-е выд.) У. Ігнатоўскага, «Дзед Завала» (2-е выд.) Ядвігіна Ш., «Сон Гаўрылы і розныя вершы» У. Іпіцкага (Паўлюкоўскага), «Баўтручок і іншыя гумарыстычныя апавяданні і жарты (з народнага)», «Ад чаго зло на свеце» і «Ці шмат чалавеку трэба зямлі...» Л. Талстога і інш. Мела выдавецкія серыі «Сцэнічныя творы» і «Гумарыстычная бібліятэчка». За выпуск «Беларускага дэкламатара» (1928, увайшлі вершы Ф. Багушэвіча, Цёткі, Я. Купалы, Я. Коласа, зах.-бел. паэтаў) Знамяроўскі прыцягваўся ўладамі Польшчы да судовай адказнасці. З-за адсутнасці сродкаў мастацка-афармленчы ўзровень выданняў быў невысокі. Выдавецтва занепала ў сувязі з рэпрэсіямі супраць нац.-вызв. руху ў Зах. Беларусі. Апошнімі яго выданнямі былі «Путы кахання» У. Казлоўшчыка і брашура «Правакацыя беларускага народа» Ф. Акінчыца. *А С Ліс*

**ВЫДАВЕ́ЦТВА Б. А. КЛЕ́ЦКІНА,** прыватнае выдавецтва ў Вільні. Заснавана ў 1913 Б. А. Клецкіным (1875—1937). Выдавала л-ру на бел., польскай і яўр. мовах. У 1921 створаны бел. аддзел выд-ва, які меў сваю эмблему з выявай сейбіта. У 1921—31 выдадзена 30 арыгінальных і перакладных бел. кніг, сярод якіх вядучае месца займалі творы класікаў бел. л-ры. Упершыню выйшла аповесць Я. Коласа «У палескай глушы» (1923), перавыдадзены яго кнігі «У глыбі Палесся», «Казкі жыцця» і інш., зб-кі «Шляхам жыцця» Я. Купалы, «Вянок» М. Багдановіча, «Бярозка» Ядвігіна Ш. У перакладзе на бел. мову выдадзены «Тарас Бульба» М. Гогаля, выбранае «Для дзяцей» Л. Талстога, «Алеся» А. Купрына, «Сляпы музыка» У. Караленкі, «Прынц і жабрак» М. Твэна, «Ірландскія народныя казкі» С Макмануса. Выпушчаны кнігі зах.-бел. літаратараў Я. Нарцызава (Драздовіча), Б. Друцкага-Падбярэскага, Я. Пачопкі, бел. падручнікі па гісторыі л-ры М. Гарэцкага, геаграфіі А. Смоліча, матэматыцы С. Рака-Міхайлоўскага, Р. Астроўскага, А. Гурскага, чытанкі Л. Гарэцкай, А. Смоліч, «Падручны беларуска-польскі слоўнік» Друцкага-Падбярэскага, «Расказы аб вялікіх падзеях розных часоў і народаў» М. Рубакіна і інш. *А С Ліс*

**ВЫДАВЕ́ЦТВА В. ЛАСТО́ЎСКАГА,** прыватнае беларускае выдавецтва ў Вільні ў 1916—18. Заснавана В. Ю. Ластоўскім. Мела на мэце падрыхтоўку і выданне падручнікаў, дапаможнікаў, чытанак для першых бел. школ. Выпусціла Беларускі лементар, хрэстаматыю «Выпісы з беларускай літаратуры», дапаможнікі і чытанкі «Незабудка», «Сейбіт», «Родныя зярняты», «Недацветы», зб-кі «Скрыпка беларуская» (2-е выд.) Цёткі, «Беларускі песеннік з нотамі для народных і школьных хораў» (2-е выд.) Л. Рагоўскага, «Прыпеўкі (Песні песень)», нататкі «Што трэба ведаць кожнаму беларусу». *А С Ліс*

**ВЫДАВЕ́ЦТВА МІНІСТЭ́РСТВА БЕЛАРУ́СКІХ СПРАЎ У ЛІТВЕ́.** Існавала ў Коўне ў 1919—24 пры *Міністэрстве беларускіх спраў у Літве*. Выдавала грамадска-паліт., навукова-папулярную, пед. і маст. л-ру. Выйшлі брашура М. Доўнар-Запольскага «Асновы дзяржаўнасці Беларусі», гісторыка-паліт нарысы Я. Варонкі «Беларускі рух ад 1917 да 1920 года» і «Беларуская справа да міравой нарады ў Версалі», М. Засецкага «Міністэрства беларускіх спраў За 10 месяцаў існавання», І. Антонава «Успаміны аб польскай акупацыі Гарадзеншчыны ў 1919—1921 г.». Выпусціла паэт. зб-кі «Дудка беларуская» (з прадмовай Варонкі) і «Смык беларускі» Ф. Багушэвіча, зб. апавяданняў «Казкі жыцця» Я. Коласа, паэму «Тарас-паляўнічык», «Казкі» Г. К. Андэрсена, англ. легенду «Спявак Блондэль» (пер. В. Ластоўскі), навукова-папулярныя кнігі «Неба і зоры» (пер. Г. Казячы), «Закон жыцця сярод жывёл і раслін» В. Лункевіча, агульнаадукацыйныя падручнікі «Новы лемантар для беларускіх дзетак» (3-е выд.) Я. Станкевіча, «Батаніка» В. Зяленскага, «Фізіялогія і анатомія чалавека» Н. Малышава, падручнік «Новая гісторыя» Р. Віпера, «Падручны расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік» Ластоўскага, «Слоўнік геаметрычных і трыганаметрычных тэрмінаў і сказаў» К. Дуж-Душэўскага і Ластоўска-

Да арт Выдавецкая марка. Выдавецкія маркі Ф Скарыны, Белтрэстдруку, Бел дзярж выд-ва, Бел выдавецкага т-ва

га. Усяго выйшла каля 20 кніг. Спыніла дзейнасць у сувязі з заснаваннем выд-ва Бел. цэнтра ў Літве. *А. С. Ліс.*

**ВЫДАВЕ́ЦТВА «НА́ШАЙ НІ́ВЫ».** Існавала ў Вільні ў 1907—13 пры газ. *«Наша ніва».* Выдавала мастацкую, навукова-папулярную і с.-г. л-ру, календары. Выпусціла 2 зб-кі маст. твораў, надрукаваных у газ. «Наша ніва», перакладзеныя на бел. мову апавяданні «Гэдалі» Э. Ажэшкі і «Казку аб вадзе» Э. Беламі, брашуры «Як багацеюць чэшскія сяляне» Маліноўскага (пер. Зязюля), «Зямельная справа ў Новай Зеландыі» (пад крыптанімам «А. Б.»), «Цукер» В. Тройцы, 4 «Беларускія календары-кнігі» за 1910, 1911, 1912 і 1913. З 1912 выдавала час. *«Саха».* Спыніла дзейнасць у сувязі з заснаваннем на яго базе *Беларускага выдавецкага таварыства.* *А. С. Ліс.*

**ВЫДАВЕ́ЦТВА ТАВАРЫ́СТВА БЕЛАРУ́САЎ-ВЫ́БАРШЧЫКАЎ,** Беларускае выдавецкае таварыства ў Латвіі. Існавала ў Рызе ў 1926—34. Мела на мэце пашырэнне асветы і нац. самасвядомасці сярод латвійскіх беларусаў. Асаблівую ўвагу звяртала на выпуск л-ры па паліт. і асв. праблемах, гісторыі Беларусі (кнігі і брашуры К. Езавітава «Беларусы ў Латвіі», «Беларусы ў Літве», «Беларусь у мінулым і сучасным», А. Галынца «Вялікае апрашчэнне ці вялікае ўдасканаленне?», брашура «Беларускі працэс у Латвіі»). Выдала зб. вершаў маладых бел. паэтаў у Латвіі «Першы крок», апавяданні «Леснікова сена» В. Вальтара, «Фракеец Кілон» А. Упіта (у пер. з латышскай мовы), брашуры «Гістарычны нарыс пяцігоддзя Дзвінскай дзяржаўнай беларускай гімназіі за 1922—1927 гг.» С. Сахарава, «Беларускае культурна-асветнае т-ва «Бацькаўшчына» ў Латвіі» Езавітава, «Дзесяцігоддзе 1-й Рыжскай беларускай асноўнай школы, 1923—1933» С. Сіцько. Выдавала пед. л-ру («Як вучыць дзяцей у новай школе?» А. Луцкевіча), падручнікі (на бел. мове і ў пер. з латышскай), «Праграмы беларускай пачатковай школы ў Латвіі 1925—1926 гг.». Выйшлі «Папулярныя нарысы па тэорыі кааперацыі» К. Пажытнова, бел. кнігі-календары Сахарава. Друкавала час. *«Беларуская школа ў Латвіі».* Выпусціла каля 20 выданняў. Зачынена ў сувязі з устанаўленнем у Латвіі дыктатуры К. Ульманіса. *А. С. Ліс.*

**ВЫДАВЕ́ЦТВА ТАВАРЫ́СТВА БЕЛАРУ́СКАЙ ШКО́ЛЫ.** Заснавана ў Вільні ў 1921 *Таварыствам беларускай школы* для выдання навуч.-педагагічнай літаратуры. Яму папярэднічала выд-ва Бел. школьнай рады. На пачатку дзейнасці выпусціла падручнікі-чытанкі Л. Гарэцкай «Родны край» для 2—4-га класаў, «Праграмы для паступлення ў беларускія гімназіі», Я. Станкевіча «Паўкулі па-беларуску» і інш. З уздымам вызв. барацьбы працоўных Зах. Беларусі і звязаным з ім культурным рухам выд-ва пачало выпускаць драм. творы для самадзейнай сцэны гурткоў т-ва. У 1927—28 выдадзены вадэвіль «Модны шляхцюк» К. Каганца, п'есы М. Крапіўніцкага «Пашыліся ў дурні» і «Па рэвізіі», аднаактоўка Маладога Дзядка (С. Новіка-Пеюна) «Ёлка Дзеда Мароза» і інш. Рэпрэсіі ўрада Польшчы супраць легальных форм нац.-вызв. руху працоўных Зах. Беларусі прымусілі выд-ва ў сярэдзіне 1930-х гадоў спыніць сваю дзейнасць. *А. С. Ліс.*

**ВЫДАВЕ́ЦТВА ЦК КПБ,** назва выдавецтва *«Беларускі Дом друку»* ў 1969—91.

**ВЫДАВЕ́ЦТВЫ,** прадпрыемствы (дзяржаўныя, грамадскія, кааператыўныя ці прыватныя), што ажыццяўляюць падрыхтоўку і выпуск (выданне) кніг, газет, часопісаў, нот, плакатаў і інш. відаў друкаванай прадукцыі. На Беларусі працуюць (1992) 237 В. і арг-цый, якія выдаюць. Сярод іх 11 дзярж. В. (*«Беларуская Энцыклапедыя»* імя П. Броўкі, *«Беларускі Дом друку»*, *«Беларусь»*, *«Вышэйшая школа»*, *«Мастацкая літаратура»*, *«Навука і тэхніка»*, *«Народная асвета»*, *«Полымя»*, *«Універсітэцкае»*, *«Ураджай»*, *«Юнацтва»*), 35 В. пры навук. і н.-д. установах, 23 пры навуч. установах, 22 пры грамадскіх арг-цыях, 25 пры прадпрыемствах і арг-цыях вытв. профілю і інш. Пра выдавецтвы, якія дзейнічалі на Беларусі, гл. ў арт. *Кнігадрукаванне.*

**ВЫ́ДРЫЦКІ БОЙ 1942.** Адбыўся паміж аб'яднанымі сіламі партыз. атрадаў 128-га, Г. Я. Сарокі (пазней атрад імя Варашылава партыз. брыгады імя Шчорса), узвода 277-га атрада (пазней партыз. полк 277-ы), групы падпалк. Чырв. Арміі А. К. Спрогіса і гарнізонам ням.-фаш. захопнікаў у в. Выдрыца Крупскага р-на 11.9.1942.

Выдрыцкі гарнізон (больш за 90 гітлераўцаў) разам з гарнізонамі ў г. п. Крупкі і в. Вяляцічы Барысаўскага р-на ўваходзіў у сістэму абароны праціўніка па забеспячэнні сплаву лесу па р. Бобр і бяспекі руху транспарту на ўчастку чыгункі Барысаў — Крупкі. У ноч на 11 верасня партызаны атрада імя Варашылава (камандзір Г. Я. Сарока) і ўзмоцнены ўзвод 128-га партыз. атрада перакрылі засадамі дарогі ад в. Выдрыца на в. Вяляцічы і г. п. Крупкі. Тры штурмавыя групы партызан пад камандаваннем В. П. Свістунова, Ф. В. Юданава і Спрогіса (каля 70 чал.) перайшлі раку ўброд за 2 км ад в. Выдрыца і на досвітку пад прыкрыццём шчыльнага агню атакавалі гарнізон. Гітлераўцы ўпарта супраціўляліся, адстрэльваліся з казарм і дзотаў, але іх супраціўленне было зламана. Вораг страціў забітымі і паранены 42 салдаты і афіцэры. У разгар бою каля аднаго з дзотаў па-геройску загінула камандзір дыверсійнай групы А. Ф. Колесава. *А. І. Валахановіч.*

**«ВЫЗВАЛЕ́ННЕ»,** выдавецкае таварыства. Існавала ў 1921. Выдавецка-друкарская база т-ва пазначана гарадамі Менск — Вільня — Берлін. Выпусціла манаграфію «Адраджэнне Беларусі і Польшча» А. Цвікевіча, «Беларускую граматыку для школ» Б. Тарашкевіча, каталог-кліішэ і інш. *А. С. Ліс.*

**«ВЫЗВАЛЕ́ННЕ ПРА́ЦЫ»,** Група «Вызваленне працы», першая руская с.-д. арг-цыя. Існавала ў 1883—1903. Створана ў Жэневе Г. В. *Пляханавым,* В. І. Засуліч, П. Б. Аксельродам, Л. Р. Дэйчам, В. М. Ігнатавым. Мела на мэце пераклад на рус. мову, выданне і распаўсюджванне твораў К. Маркса і Ф. Энгельса, крытыку тэарэт. асноў *народніцтва,* распрацоўку актуальных пытанняў расійскага грамадскага жыцця з пункту погляду навук. сацыялізму. У 1883—85 група выпрацавала праект праграмы расійскіх сацыял-дэмакратаў, у якім канчатковай мэтай пралетарыяту лічыла захоп паліт. улады і ажыццяўленне камуніст. рэвалюцыі, а бліжэйшай — звяржэнне самадзяржаўя і заваёву дэмакр. канстытуцыі. Дасягненне гэтых мэт абумоўлівалася арг-цыяй партыі рабочага класа, якая абапіралася на бяднейшае сялянства. У праекце праграмы прадугледжваўся шэраг бліжэйшых патрабаванняў сацыял-дэмакратаў па рабочым пытанні, ставілася задача радыкальнага перагляду аграрных адносін у Расіі. Група ўстанавіла сувязі з многімі с.-д. арг-цыямі ў Расіі, з Пецярбургскім «Саюзам барацьбы за вызваленне рабочага класа». У 1901 група аб'ядналася з *«Іскрай»* і да 1903 дзейнічала ў межах «Замежнай лігі рускай рэвалюцыйнай сацыял-дэмакратыі». Пасля 2-га з'езда РСДРП (1903) абвастрыліся ідэйныя рознагалоссі паміж У. І. Леніным і Пляханавым, што прывяло да расколу расійскай сацыял-дэмакратыі на бальшавікоў і меншавікоў.

Група зрабіла значны ўплыў на ідэйную эвалюцыю рэв. гурткоў Беларусі, пераход мясцовых рэвалюцыянераў на пазіцыі марксізму. Некаторыя з іх (чл. мінскай групы *«Чорны перадзел»* І. Н. Гецаў, С. Л. Ляўкоў, С. Л. Грынфест) пасля эміграцыі ў Швейцарыю працавалі ў друкарні групы, удзельнічалі ў дапрацоўцы праграмы, дастаўцы ў Расію марксісцкіх выданняў. У канцы 1883 у Расію выязджаў Грынфест з мэтаю ўстанаўлення сувязей і адрасоў для дастаўкі л-ры і стварэння «хаця б нязначнага гуртка» аднадумцаў. З дапамогаю б. гродзенскага народніка Л. Э. Гарадзішча і чл. мінскай групы «Чорны перадзел» Л. М. *Насовіча* ён устанавіў сувязь групы «В. п.» са спачуваючымі ёй у Пецярбургу, Маскве, Вільні і Мінску, перадаў ім шмат выданняў групы і пісьмо Аксельрода, пазней выдадзенае брашурай («Ліст да таварышаў»). Выданні групы атрымлівалі бел. народнікі, якія друкавалі ў Пецярбургу нелегальны час. *«Гомон».* У выніку арыштаў у сак. 1884 сувязі рэвалюцыянераў Беларусі з групай былі перапынены, аднооўлены ў 2-й пал. 1880-х гадоў. У гэты час дастаўкай выданняў групы ў Расію займаўся Р. Салавейчык з Гродна, які пазнаёміўся з марксізмам пад уплывам Пляханава і Аксельрода ў час вучобы ў Швейцарыі. У 1888—89 ён прыцягнуў да работы па пашырэнні выданняў групы да 15 чал. з Адэсы, Вільні, Гродна, Кіева, Мінска і інш. Выданнямі групы карысталіся *«Гурток моладзі польска-літоў-*

*скай, беларускай і маларускай»* (адзін з кіраўнікоў бел. паэт А. Гурыновіч) і пецярбургскі «Рабочы саюз» («Група Бруснева», якую восенню 1892 узначаліў беларус Н О Алюшкевіч). Умацаванню сувязей с.-д груп Беларусі з агульнарас. с.-д рухам, з групай «В. п» садзейнічала наведванне Леніным Вільні ў вер 1895, калі ен вяртаўся ў Расію з-за мяжы У час перагавораў Леніна з мясц сацыял-дэмакратамі было ўзгоднена пытанне аб выданні неперыяд. зб. «Работнік» У 2-й пал 1890-х гадоў у зборніку і дадатку да яго з'явілася серыя паведамленняў аб с-д і рабочым руху ў Брэст-Літоўску, Вільні, Віцебску, Лідзе, Мінску, Пінску, Слоніме, Смаргоні. Сацыял-дэмакраты Беларусі атрымлівалі і распаўсюджвалі гэтыя выданні

Сувязі групы «В. п.» з рэвалюцыянерамі Беларусі, нягледзячы на правалы, былі пашыраны на працягу ўсей яе дзейнасці Наяўнасць іх, асабліва ў пачатковы перыяд станаўлення сацыял-дэмакратыі Беларусі, садзейнічала пераходу перадавой часткі рэвалюцыянераў ад народніцтва да марксізму.

*Літ* Солошенко В От народничества к марксизму Мн, 1971, Бич М О Рабочее движение в Белоруссии в 1861—1904 гг Мн, 1983, Лосинский Н Б Революционно-иародническое движение в Белоруссии 1870—1884 гг Мн, 1983, Черепица В Истоки (Очерки из истории рус -бел -пол рев и культ связей XIX — нач XX веков) Гродно, 1991

*В М Чарапіца*

**«ВЫЗВОЛЕНЕ»**, Польская народная партыя «Вызваленне», дробнабуржуазная партыя ў Польшчы ў 1915—31, якая мела значны ўплыў на сялян Зах. Беларусі Яе лідэры К. Багінскі, Я. Домбскі, Т. Начніцкі, С Асецкі, Ю Панятоўскі, С Тугут Радыкальная частка «В.» выдавала ў Вільні ў 1922—23 для насельніцтва Зах. Беларусі газ. «Wyzwolenie Ludu» («Вызваленне народа»). З дапамогай радыкальных праграм і заклікаў яна аб'яднала вакол сябе частку сярэдніх і дробных сялян. Кіраўніцтва партыі займала згодніцкія пазіцыі, але пад націскам радавых яе членаў «В.» ўключалася ў барацьбу супраць памешчыцкага землеўладання і перайшло ў апазіцыю да ўрада Пілсудскага. Згодніцкая пазіцыя і непаслядоўнасць партыі выклікалі ўнутры яе шматлікія расколы. У 1924 з «В.» вылучылася левае крыло на чале з пасламі сейма А Фідаркевічам, С Ваявудскім, С. Баліным, якое стала асновай *Незалежнай сялянскай партыі* У 1931 «В.» аб'ядналася з партыяй «Пяст» і Сялянскай партыяй у Польскую нар партыю, якая абараняла інтарэсы заможных сялян.

*Літ* Борьба трудящихся Западной Белоруссии за социальное и национальное освобождение и воссоединение с БССР Документы и материалы Т 1 (1921—1929 гг) Мн, 1962, Революционный путь Компартии Западной Белоруссии (1921—1939 гг) Мн, 1966

*І П Хауратовіч*

**ВЫ́ЗНА**, назва да 3.1 1923 г. п *Чырвоная Слабада* Салігорскага р-на.

**ВЫКАНА́ЎЧЫ АДДЗЕ́Л ЛІТВЫ́**, цэнтр па кіраўніцтве *паўстаннем 1863—64* у Літве і на Беларусі Створаны ў Вільні 14(26).6.1863 паводле дэкрэта варшаўскага Нац ўрада ад 28.4 (10 5).1863 на базе *Аддзела кіраўніцтва правінцыямі Літвы* Старшыней быў спачатку прадстаўнік «белых» Я. *Гейштар*, уваходзілі ў аддзел і «чырвоныя» — К *Каліноўскі*, У. *Малахоўскі*, З *Чаховіч* Фармальна залежаў ад варшаўскага паўстанцкага ўрада Аднак «чырвоныя» неўзабаве ўзялі рэв. уладу ў свае рукі і вырашалі найважнейшыя пытанні паўстання незалежна ад Варшавы Пасля арышту Гейштара [31.7 (12.8).1863] гал. кіраўніком паўстання стаў К. Каліноўскі, яго бліжэйшыя паплечнікі Малахоўскі, Ю. *Каліноўскі*, *Ф. Зянковіч*, Ц. Далеўскі (гл. ў арт *Далеўскія*), І. *Здановіч*, І. *Ямант*, І *Мілевіч*. Як сведчыў Ю. Каліноўскі, назва В. а. Л., «хаця ўтрымалася, не адпавядала першапачатковай праграме і была анахранізмам» Гэты «чырвоны ўрад» Літвы і Беларусі намагаўся ўмацаваць рэв. арг-цыю, наладзіць сувязі з рус. рэвалюцыянерамі, далучыць да паўстання шырокія нар. масы Паводле рашэння аддзела кіраўніком паўстанцкіх сіл у Ковенскай губ прызначаны рэвалюцыянер-дэмакрат А Мацкявічус, у Гродзенскай губ.— В. *Урублеўскі* Прадстаўнікамі В а. Л. за мяжою былі А *Банольдзі*, Б. *Длускі*, В. Малахоускі, якімі рабіліся значныя закупкі зброі і іншага вайсковага рыштунку. У Кенігсбергу ў 1864 было наладжана выданне падпольнай газ. *«Глос з Літвы»*. Нават пасля арышту К. Каліноўскага [29 1 (10.2) 1864] у Вільні дзейнічалі рэшткі паўстанцкай адміністрацыі.

*Кр* Показания и записки о польском восстании 1863 года О Авейде М, 1961, Паўстанне ў Літве і Беларусі 1863—1864 гг М, 1965 (Восстание 1863 года Материалы и документы), К Калиновский Из печатного и рукописного наследия Мн, 1988, Gieysztor J Pamiętniki z lat 1857—1865 T 1—2 Wilno, 1913, Dokumenty Komitetu Centralnego Narodowego i Rządu Narodowego, 1862—1864 Wrocław etc, 1968

*Літ* Смирнов А Ф Восстание 1863 года в Литве и Белоруссии М, 1963, Кісялеў Г В Сейбіты вечнага Мн, 1963, Його ж З думай пра Беларусь Мн, 1966, Шалькевич В Ф Кастусь Калиновский Страницы биогр Мн, 1988, Maksimaitienė O Lietuvos sukilėlių kovos 1863—1864 m Vilnius, 1969

*Г В Кісялеў*

**ВЫКАНА́ЎЧЫ КАМІТЭ́Т З'ЕЗДА САЛДА́ЦКІХ, РАБО́ЧЫХ І СЯЛЯ́НСКІХ ДЭПУТА́ТАЎ ЗАХО́ДНЯГА ФРО́НТУ**, гл. *Франтавы камітэт Заходняга фронту 1917*.

**ВЫКАНА́ЎЧЫ КАМІТЭ́Т РА́ДЫ УСЕБЕЛАРУ́СКАГА З'Е́ЗДА**, орган улады, створаны Радай *Усебеларускага з'езда 1917* Паводле рэзалюцыі Усебел з'езда, прынятай у ноч 17—18 (30—31). 12.1917, яго дэлегатам належала выбраць са свайго складу орган краевай улады Беларусі Пасля разгону з'езда яго дэлегаты сабраліся ў дэпо Лібава-Роменскай чыгункі і 18(31) снеж. перадалі краевую ўладу Радзе Старшынь або Радзе Усебел. з'езда (складалася са 105 чал). 21.12 1917(3.1 1918) Рада Усебел з'езда абрала са свайго складу Выканаўчы к-т з 10 чал. Рада выконвала функцыі перадпарламента, Выканком першапачаткова з'яўляўся прававобразам урада Беларусі. Члены Выканкома выконвалі пэўныя міністэрскія функцыі Я Я. Варонка — старшыня, замежныя справы; П А. Бадунова — сац. апека; Т Т Грыб — сельская гаспадарка; М. М. Касцевіч — асвета, А У Прушынскі — праца, С А Рак-Міхайлоўскі — ваен справы, Я. М Серада — унутр. справы. Кіраўніком спраў з'яўляўся Л Заяц, Я Л. Дыла і І В. Лагун лічыліся міністрамі без партфеляў, іх членства ў Выканкоме было намінальнае У 1918 яны ўступілі ў РКП(б), працавалі ў *Беларускім нацыянальным камісарыяце* і сталі працінікамі *Беларускай Народнай Рэспублікі* (БНР) Астатнія члены працавалі ў паўлегальных умовах, некаторыя арыштоўваліся бальшавіцкімі ўладамі Зах вобласці і фронту. 19 2 1918 пасля выезду з Мінска Аблвыкамзаха і Савета Нар Камісараў Зах вобласці і фронту Выканком стаў легальным органам улады Па прапанове Варонкі ў яго склад былі кааптаваны прадстаўнікі літ., польскай, рус і яўрэйскай нац меншасцей. 20 2.1918 Выканком выдаў *Першую ўстаўную грамату*, паводле якой ен абвясціў найвышэйшай часовай уладай Беларусі «для кіравання краем і склікання, як можна хутчэй, Усебеларускага Устаноўчага Сойму» 21.2.1918 Выканком сфарміраваў урад — *Народны Сакратарыят Беларусі* на чале з Варонкам — і ўсклаў на яго выканаўчую ўладу. Германскія акупац ўлады, якія 21 2.1918 прыйшлі ў Мінск, не прызнавалі Нар. Сакратарыят 3.3.1918 Германія і Сав. Расія заключылі *Брэсцкі мір 1918*, паводле якога Беларусь была падзелена паміж імі Выконваючы волю Усебел. з'езда і развіваючы ідэі Першай устаўнай граматы аб праве бел. народа на «поўнае самаазначэнне», Выканком выдаў 9 3.1918 *Другую ўстаўную грамату* Беларусь абвяшчалася Нар Рэспублікай Да склікання Устаноўчага Сойму заканадаўчая ўлада перадавалася Радзе Усебел з'езда. Аднак ва ўмовах герм. акупацыі выбары ва Усебел. Устаноўчы Сойм правесці было немагчыма. 18.3.1918 Рада Усебел. з'езда на пленарным пасяджэнні абвясціла сябе *Радай Беларускай Народнай Рэспублікі* і т. ч. узяла на сябе функцыі парламента. У перыяд паміж пленарнымі пасяджэннямі Рады БНР вышэйшым органам дзярж. улады з'яўляўся яе Прэзідыум на чале са Старшыней Рады. Выканком спыніў існаванне.

*Літ* Варонко Я Беларускі рух ад 1917 да 1920 году Кароткі агляд 2 выд Коўна, 1920 Рэпрынт выд Мн, 1991 Езавітаў К Першы Усебеларускі кангрэс // Беларуская мінуўшчына 1993 № 1 Казбярук У Паміж молатам і кавадлам, або Крок наперад, два крокі на

зад // ЛіМ 1991 8 15, 22 сак, Турук Ф Белорусское движение Очерк истории нац и рев движения белорусов М, 1921
*А М Сідарэвіч*

**ВЫКЛЮ́ЧНАЕ СТАНО́ВІШЧА,** асобае становішча, асобы прававы рэжым у Расійскай імперыі, які ўводзіўся дзярж ўладамі на пэўны тэрмін ва ўсёй краіне ці ў асобных мясцовасцях ва ўмовах надзвычайных абставін (уздым рэв руху, масавыя беспарадкі, вайна, стыхійныя бедствы) Паводле «Палажэння аб мерах да аховы дзяржаўнага парадку і грамадскага спакою» ад 14.8.1881 прадугледжваліся 2 віды В с становішча ўзмоцненай аховы (уводзілася ў выпадках, калі «грамадскі спакой у якой-небудзь мясцовасці будзе парушаны злачыннымі замахамі супраць існуючага дзяржаўнага ладу ці бяспекі прыватных асоб і іх маемасці або падрыхтоўкай гэтакіх, так што для аховы парадку прымянення дзеючых пастаянных законаў акажацца недастатковым») і становішча надзвычайнай аховы («калі такімі замахамі насельніцтва пэўнай мясцовасці будзе прыведзена ў трывожны настрой, што выкліча прымяненне выключных мер для неадкладнага аднаўлення парушанага парадку»). Такія фармулеўкі закону давалі магчымасць уводзіць адзін з відаў В с. ў адказ практычна на любыя масавыя выступленні дэманстрацыі, мітынгі, забастоўкі і інш. Становішча ўзмоцненай аховы аб'яўлялася міністрам унутраных спраў або ген -губернатарам з наступным паведамленнем Камітэту міністраў (з 1906 Савету міністраў) тэрмінам на 1 год, становішча надзвычайнай аховы — «найвысачэйша зацверджаным» палажэннем Камітэта міністраў (з 1906 Савета міністраў) на 6 месяцаў Міністру ўнутраных спраў давалася права па сканчэнні названых тэрмінаў уваходзіць у Камітэт міністраў з прадстаўленнем аб працягу тэрміну дзеяння ўзмоцненай або надзвычайнай аховы ў той ці інш. мясцовасці

У мясцовасцях, аб'яўленых на становішчы ўзмоцненай аховы, ген.-губернатары, губернатары і граданачальнікі мелі права выдаваць *абавязковыя пастановы*, разглядаць справы аб парушэннях такіх пастаноў і накладваць спагнанні на вінаватых (штраф да 500 руб або арышт да 3 мес), забараняць правядзенне сходаў; закрываць гандл установы і прамысл прадпрыемствы; забараняць «нядобранадзейным» асобам знаходжанне ў мясцовасцях, дзе ўведзена ўзмоцненая ахова (гэтых асоб высылалі ў інш. мясцовасці па ўзгадненні з Асобай нарадай Міністэрства ўнутраных спраў). Генерал-губернатарам (а дзе іх не было — міністру ўнутраных спраў) давалася права выключаць паводле свайго меркавання з агульнай падсуднасці асобныя крымінальныя справы (найперш аб дзярж. злачынствах) і перадаваць іх на разгляд ваенных судоў для пакарання вінаватых па законах ваеннага часу, патрабаваць разгляду такіх спраў у закрытых судовых пасяджэннях. Прыгаворы ваенных судоў па такіх справах зацвярджалі ген.-губернатары, а ў мясцовасцях, ім не падначаленых,— камандуючыя войскамі. Губернатары і граданачальнікі мелі права звальняць са службы ў земскіх, гарадскіх і судова-міравых установах «нядобранадзейных» асоб, за выключэннем чыноўнікаў, якія займалі выбарныя пасады. Начальнікам паліцыі і жандарскіх упраўленняў, іх памочнікам давалася права рабіць вобыскі ў любы час і ва ўсіх без выключэння памяшканнях, а таксама затрымліваць на тэрмін да 2 тыдняў (па распараджэнні губернатараў і граданачальнікаў — да 1 мес) усіх асоб, што падазраваліся ва ўчыненні дзярж злачынстваў або ў прыналежнасці да «супрацьзаконных хаўрусаў»

У мясцовасцях, аб'яўленых на становішчы надзвычайнай аховы, дзейнічалі тыя ж правілы, што і пры становішчы ўзмоцненай аховы Акрамя таго, ген.-губернатары (у мясцовасцях, дзе іх не было, спецыяльна прызначаныя вярхоўнай уладай галоўнаначальствуючыя) атрымлівалі надзвычайныя правы: ствараць асобыя ваенна-паліцэйскія каманды для садзеяння органам паліцыі; выключаць з агульнай падсуднасці і перадаваць на разгляд ваенных судоў цэлыя катэгорыі спраў аб дзярж. злачынствах і злачынствах супраць парадку кіравання, патрабаваць разгляду такіх спраў у закрытых судовых пасяджэннях, накладваць спагнанні за парушэнне абавязковых пастаноў і інш. правіннасці (зняволенне ці арышт да 3 мес або штраф да 3 тыс. руб.); звальняць з пасады чыноўнікаў усіх ведамстваў, у т. л. асоб, што займалі выбарныя пасады (за выключэннем чыноўнікаў 1—3-га класаў); прыпыняць або закрываць сходы саслоўных, гарадскіх і земскіх устаноў, прыпыняць перыядычныя выданні на час дзеяння надзвычайнага становішча і закрываць навучальныя ўстановы на тэрмін да 1 месяца.

Адначасова з аб'яўленнем якой-небудзь мясцовасці на В. с. «найвысачэйша зацверджаным» палажэннем Камітэта міністраў (з 1906 Савета міністраў) у сумежных губернях ці нават на ўсёй тэр дзяржавы маглі быць уведзены прадугледжаныя «Палажэннем...» ад 14.8 1881 асобыя правілы, у адпаведнасці з якімі начальнікі паліцыі і жандарскіх упраўленняў і іх памочнікі маглі рабіць вобыскі і арышты (да 7 дзен) па падазрэнні ва ўчыненні дзярж. злачынстваў і ў прыналежнасці да «супрацьзаконных хаўрусаў». Губернатарам і граданачальнікам давалася права звальняць са службы ў земскіх, гарадскіх і судова-міравых установах усіх «нядобранадзейных» асоб, акрамя тых, хто займаў выбарную пасаду. Міністр унутраных спраў па ўзгадненні з міністрам юстыцыі мог перадаваць ваеннаму суду ўсіх асоб, што ўчынілі дзярж. і інш. злачынствы, для пакарання іх па законе ваеннага часу.

Рэжым В. с. шырока прымяняўся ў рэвалюцыю 1905—07 і ў перыяд рэакцыі Зімой 1905 — вясной 1906 каля 80 % тэр. Расійскай імперыі знаходзілася пад дзеяннем выключных законаў. На Беларусі Віцебская губ. знаходзілася на становішчы ўзмоцненай аховы з крас. 1905 да сак. 1909 (Віцебскі пав — да вер 1909); Мінская губ.— на становішчы надзвычайнай аховы з снеж 1905 да ліст. 1906, на становішчы ўзмоцненай аховы з ліст 1906 (мяст Баранавічы і чыг. станцыя са студз. 1907) да ліст 1909; Гомель і Гомельскі пав — на становішчы надзвычайнай аховы з ліст 1905 да чэрв. 1907, на становішчы ўзмоцнена, да 1-й сусв. вайны дзейнічалі прадугледжаныя «Палажэннем..» ад 14.8. вішчы ўзмоцненай аховы з снеж. 1905 да снеж. 1908, Гродна з мая 1905 да крас 1909, Смаргонь з мая 1905 да крас. 1910. У тых мясцовасцях Беларусі, дзе В. с. не аб'яўлялася ці было адменена, да 1-й сусв. вайны дзейнічалі прадугледжаныя «Палажэннем » ад 14.8. 1881 асобыя правілы, а губернатарам былі дадзены або захаваны за імі паўнамоцтвы па выданні абавязковых пастаноў і разгляду ў адміністрацыйным парадку спраў аб парушэннях гэтых пастаноў.

1.5.1917 Часовы ўрад адмяніў «Палажэнне...» ад 14 8.1881 і скасаваў парадак увядзення рэжыму В. с.

*Літ* Гессен В М Исключительное положение Спб, 1908, Ерошкин Н П История государственных учреждений дореволюционной России 3 изд М, 1983
*А Я Сукала*

**ВЫКУПНА́Я АПЕРА́ЦЫЯ,** дзяржаўная крэдытная аперацыя па выкупе сялянамі зямлі, састаўная частка *сялянскай рэформы 1861* У адпаведнасці з «Палажэннем аб выкупе» селянін пры адсутнасці нядоімкі меў права выкупіць сядзібны ўчастак без згоды памешчыка, а палявы надзел мог выкупіць толькі са згоды або па патрабаванні памешчыка. Выкупны кошт надзельнага ўчастка вызначаўся шляхам капіталізацыі з 6 % гадавога грашовага аброку Фактычна сяляне выкуплялі не зямлю, а феад. павіннасці, г. зн. асабістую свабоду. Яны атрымлівалі ад дзяржавы пазыку ў памеры 75—80 % выкупнога доўгу, якую павінны былі пагасіць на працягу 49 гадоў па 6 % штогод. Астатнія 20—25 % выкупнога доўгу сяляне абавязаны былі ўнесці памешчыку пры заключэнні выкупной здзелкі. Пры выкупе надзелу па патрабаванні памешчыка, г. зн. пры адсутнасці добраахвотнага пагаднення, такой даплаты не патрабавалася. Нярэдка дадатковы плацеж замяняўся работай. Выкупная сума, за вылікам доўгу крэдытным установам, выдавалася памешчыкам аднаразова дзярж. 5-працэнтнымі банкаўскімі білетамі і выкупнымі пасведчаннямі У 1863—71 на Беларусі і ў Літве ў сувязі з паўстаннем 1863—64 і выплатай кантрыбуцыйнага збору мясцовымі памешчыкамі гэту суму дзяржава выдавала ім наяўнымі грашыма ў памеры вылічанага гадавога 5,5-працэнтнага даходу з надзельных зямель сялян,

пераведзеных на выкуп. Агульная сума выкупу, атрыманая памешчыкамі 5 зах. губерняў, склала 72,9 млн. руб.

Абавязковы выкуп на Беларусі, Правабярэжнай Украіне і ў Літве ўведзены з 1863 (у іншых рэгіенах Расіі з 1883). Пад уплывам паўстання 1863—64 і масавага руху сялян ім вярнулі частку *адрэзкаў* і паменшылі выкупныя плацяжы. Памеры выкупных плацяжоў на дзесяціну надзельнай зямлі па выкупных актах у параўнанні з вызначанымі ва ўстаўных граматах зменшыліся ў Мінскай губ. на 75,4 %, Гродзенскай на 68,8 %, Віленскай на 64,9 %, Магілёўскай на 23,8 %. Агульны кошт зямлі па выкупе і цана яе на мясцовым рынку ў 1863—72 адпаведна складалі. у Віцебскай губ. 16,8 і 8,2 млн. руб., Магілёўскай — 25,6 і 10,1, Мінскай — 12,6 і 10,5, Віленскай — 9,4 і 11,5, Гродзенскай — 7,8 і 10,7 млн. руб. Нягледзячы на меншы памер выкупной сумы ў параўнанні з рыначным коштам зямлі ў апошніх дзвюх губернях, сяляне і тут значна пераплацілі за свае надзелы ў сувязі са шматгадовым спагнаннем дзяржавай высокіх (6) працэнтаў па выкупной пазыцы.

Рэвалюцыйная сітуацыя ў краіне ў канцы 1870 — пач. 80-х гадоў, значны недабор выкупных плацяжоў (павелічэнне нядоімак) прымусілі царскі ўрад на пач. 1880-х гадоў некалькі скараціць памеры выкупу для былых памешчыцкіх сялян шэрагу рэгіенаў. У 1882—90 у Магілёўскай губ. выкупныя плацяжы паменшаны на 6,6 %, у Віцебскім і Гарадоцкім паветах Віцебскай губ.— на 3,3 %. На астатняй тэр. Беларусі іх скарачэнне не праводзілася. Пад уплывам рэв. падзей 1905 урад вымушаны быў адмяніць выкупныя плацяжы. В. а. фактычна азначала рабаванне сялян памешчыкамі і царызмам. З 1861 па 1906 былыя памешчыцкія сяляне 5 зах. губерняў Расіі заплацілі 170 млн. руб. выкупу. У выніку В. а. дзяржава атрымала даход у суме каля 100 млн. руб.

В. а. праводзілася таксама пры рэформах *удзельных сялян, вольных людзей, старавераў, праваслаўных арандатараў, чыншавых сялян*

*Кр* Полн собр законов Российской империи Собр. 2-е Т 36 № 36657, 36659, Т 38 № 39337, 40172

*Літ.* Ленін У І Пяцідзесяцігоддзе падзення прыгоннага права // Тв Т. 17 (Полн собр соч Т 20), Ягож «Сялянская рэформа» і пралетарска-сялянская рэвалюцыя // Там жа, Лосицкий А Выкупная операция Спб, 1906, Зайончковский П А Отмена крепостного права в России 3 изд М., 1968, Дружинин Н М Русская деревня на переломе 1861—1880 гг М, 1978, Фридман М Б Отмена крепостного права в Белоруссии Мн, 1958

*В П Панюціч*

**ВЫМАРАЧНЫ МАЁНТАК**, маентак у Стараж. Русі і ВКЛ, што пасля смерці ўладальніка, які не пакінуў прамых нашчадкаў і інш. законных спадкаемцаў, пераходзіў ва ўласнасць дзяржавы, увасобленай вярхоўным уладаром — каралем, вял. князем і г. д. Паняцце В. м. стала актуальным пры станаўленні класавага грамадства, з развіццем прыватнай уласнасці на зямлю. Умовы, пры якіх маентак станавіўся вымарачным, маглі адрозніваца і з цягам часу мяняцца. На Русі ў 9—11 ст. гэтыя ўмовы вызначаліся звычаевым правам, якое дакладна невядома. Верагодна, В. м. адыходзіў князю, калі апошні ўладальнік не пакінуў сыноў. У якасці В. м. магло выступаць і цэлае княства, калі князь не меў ні сыноў, ні братоў. У такім выпадку яно адыходзіла кіеўскаму князю. «Праўда Уладзіміра Манамаха» (пасля 1113) мае агаворку, што спадчына («задница») баяр і дружыннікаў пры адсутнасці сыноў можа пераходзіць да дачок. Такім чынам, уладанне баяр станавілася В. м. толькі пры адсутнасці дзяцей абодвух полаў. Лічыцца, што нормы старажытнарускага права па-ранейшаму дзейнічалі на землях Беларусі, якія ў 13—14 ст. увайшлі ў склад ВКЛ. У 1387 прывілей Ягайлы пашырыў на баярства Літвы, якое прыняло каталіцтва, нормы польскага права, паводле якіх уладальнік мог з дазволу вял. князя прадаць або завяшчаць («запісаць») свой маентак. Такім чынам, вымарачным станавіўся толькі той маентак, на які не было завяшчання (тастаменту). Прывілеі 1431 і 1447 пашырылі гэту норму і на праваслаўнае баярства. У юрыдычнай практыцы ВКЛ дзейнічаў таксама прынцып «блізкасці», паводле якога на В. м. маглі прэтэндаваць аддаленыя родзічы апошняга ўладальніка. Так, у 1512 пасля смерці княгіні Фядоры Кобрынскай (унучкі па жаночай лініі кн. Андрэя Уладзіміравіча) «блізкасці» дамагаліся ўнукі і праўнукі братоў кн. Андрэя — князёў Алелькі Кіеўскага і Івана Бельскага (кн. Юрый Слуцкі, Канстанцін Астрожскі, пан А. Ходкевіч і інш.). Гэта «блізкасць» не распаўсюджвалася на спадчыну мужа княгіні, кн. Сямена Іванавіча Кобрынскага, якая перайшла вял. князю. У 1542 пасля згасання роду *Гаштольдаў* уся іх вялізная маемасць як В. м. перайшла вял. князю. Прынцып В м ў бел праве афіцыйна замацаваны Статутам ВКЛ 1566 (раздз. 3, арт. 14)· «которые без потомства близшых щадков и наследников своих замрут, а ни на кого права своего прирожоного выслужного и набытого не вливши а не записавшы; бо по тых тым обычаем именья спадком на нас Господаря Великого Князя Литовского и потомков наших Великих Князей Литовских приходять и прнходити будуть». Гэта ж норма ўвайшла ў Статут ВКЛ 1588 (раздз. 3, арт. 17) і дзейнічала на тэр. Беларусі да 1840, пасля чаго была зменена на аналагічную норму расійскага права.

*Літ* Статут Великого княжества Литовского 1566 г // Временник имп Московского о-ва истории и древностей российских М, 1855 Кн 23, Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 Тэксты Давед Камент Мн, 1989

*В Л Насевіч*

**ВЫМНА**, веска, цэнтр сельсавета ў Віцебскім р-не, на паўн. беразе воз. Вымна. За 30 км на ПнУ ад Віцебска. 243 двары, 569 жыхароў (1991).

У 16 ст.— маентак у Віцебскім ваяв. ВКЛ. У 1567 В. згадваецца ў ліку інш. маемасцей шляхціца П. Ц. Кісяля, гараднічага віцебскага. Заставалася ўласнасцю роду Кісялёў да 1635, калі Я. Я. Кісель-Дарагніцкі прадаў за 7 тыс злотых свайму зяцю, кн. С. Я. Лукомскаму, маентак В. на аднайменным возеры Да маентка належалі вёскі Задабрэя (цяпер Задзябра), Кляшчова, Котава, Сапуны, Тарманава. Да пач. 18 ст.— маемасць кн. Лукомскіх. З 1772 маентак у складзе Расійскай імперыі, уключаны ў Суражскі пав. У 1785 належаў сумесна панам Навацкім і Багамольцу. Маентак ахопліваў каля 100 дробных паселішчаў (кожнае ад 1 да 7 двароў), у т. л сяло і веску В. З 1866 — у Віцебскім пав. На пач. 20 ст.— маентак памешчыка І. Казарына ў Вымнянскай вол. Віцебскага пав. Каля маентка знаходзілася невял. паселішча (пагост В.), дзе ў 4 хатах жыло 12 чал. З 1924 В. ў Віцебскім р-не. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 па чэрв. 1944 акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 22.12.1960 цэнтр сельсавета. У 1970 у В. 151 двор, 460 жыхароў. Цэнтр саўгаса імя А. Я. Углоўскага У весцы сярэдняя школа, Дом культуры, бібліятэка, амбулаторыя, аддзяленне сувязі, 2 магазіны (1992). Брацкая магіла сав. воінаў, якія загінулі ў Вял. Айч вайну (сярод пахаваных Герой Сав. Саюза А. Я. *Углоўскі*), помнік Углоўскаму Радзіма бел. этнографа і фалькларыста М. Я. *Нікіфароўскага*.

*В Л Насевіч*

**«ВЫПАЛЕНАЯ ЗЯМЛЯ»**, наўмыснае знішчэнне агрэсарам на захопленай тэр населеных пунктаў, прамысловых, энергетычных, транспартных і інш прадпрыемстваў, збудаванняў, дарог, запасаў матэрыяльных сродкаў, пасеваў, помнікаў культуры і інш. Вядома з часоў спустошальных набегаў вандалаў, гунаў, мангола-татарскіх заваёўнікаў. Прымянялася таксама ням.-фаш. захопнікамі як палітыка і тактыка планамернага спустошэння акупіраванай тэр. былога СССР у Вял Айч. вайну. Татальнае спустошэнне сав зямлі, масавае вынішчэнне і вываз людзей на катаржныя работы ў Германію былі ўзведзены ў ранг дзярж. палітыкі гітлераўскай Германіі. Гэта палітыка вынікала з чалавеканенавісніцкай фаш ідэалогіі і планаў германскага мілітарызму, была загадзя распрацавана і праводзілася з першых дзен фаш. акупацыі. Найб. адкрыта тактыка «В. з.» праводзілася ў перыяд карных аперацый ням фаш. захопнікаў і ў час іх адступлення з тэр. былога СССР. Характэрны элемент такой тактыкі — поўнае знішчэнне населеных пунктаў разам з жыхарамі. На Беларусі гітлераўцы разбурылі і спалілі ў гады вайны 9200 сел і вёсак, у т. л. больш за 5290 знішчана разам з усім або з часткай насельніцтва. Напрыклад, у Віцебскай вобл. акупанты палілі 243 вескі двойчы, 83 — тройчы, 22 — чатыры і болей разоў; у Мінскай вобл. двойчы былі спалены

92 вескі, тройчы — 40, чатыры разы і болей — 15 весак.

Ажыццяўляючы палітыку татальнага рабавання, фашысты знішчылі на Беларусі і вывезлі ў Германію больш за 10 тыс. прамысл. прадпрыемстваў, разрабавалі 10 тыс. калгасаў і 92 саўгасы, адправілі ў Германію 2,8 млн. галоў буйной рагатай, 5,7 млн. галоў дробнай жывёлы У сельскай мясцовасці Беларусі было спалена 1,2 млн. пабудоў, у т. л. 500 тыс. калгасных і грамадскіх будынкаў і больш за 420 тыс. дамоў калгаснікаў і сялян-аднаасобнікаў. На Беларусі некаторыя раёны акупанты цалкам ператварылі ў пустыні Так, у Суражскім р-не з 346 весак захавалася толькі 5, у Лельчыцкім р-не з 7562 дамоў сельскіх жыхароў уцалела 32, у Асвейскім р-не населеныя пункты былі спалены амаль поўнасцю, насельніцтва знішчана або вывезена ў Германію.

За час акупацыі на тэр. Беларусі ням.-фаш. захопнікі закатавалі, павесілі, расстралялі, спалілі жывымі больш за 2 млн. 200 тыс. сав. грамадзян і каля 380 тыс. вывезлі на катаржныя работы ў Германію. Нацысцкую палітыку *генацыду* і «В з.» выкарыстоўвалі амерыканскія імперыялісты ў вайне супраць В'етнама, ізраільскія сіяністы супраць Лівана. Гл таксама *Акупацыйны рэжым, Вываз на фашысцкую катаргу, Карныя аперацыі, Населеныя пункты Беларусі, знішчаныя разам з жыхарамі ў 1941—44 гадах, «Ост»*.

Літ Преступления немецко-фашистских оккупантов в Белоруссии, 1941—1944 2 изд Мн, 1965, Нацистская политика геноцида и «выжженной земли» в Белоруссии, 1941—1944 Мн, 1984, Романовский В Ф Забвению не подлежит Мн, 1985

*В П Раманоўскі*

**ВЫ́РАК**, 1) прыгавор суда па крымінальнай ці рашэнне па цывільнай справе ў ВКЛ. Выкладаўся у пісьмовай форме суддзёю, падсудкам або з іх дазволу пісарам Кожны В падпісваў суддзя (падсудак), пасля чаго пісар заносіў яго ў адпаведную кнігу. Паводле *Статута Вялікага княства Літоўскага 1588*, перад запісам пісар абавязаны быў зачытаць В. суддзі, каб той пераканаўся ў яго правільнасці. 2) Дагаворы, пагадненні, пастановы і распараджэнні вял князя ВКЛ, князёў, ваяводаў і інш. прадстаўнікоў улады ў ВКЛ. *Г А Маслыка*

**ВЫСАГО́РАЦ** Міхаіл Амосавіч [н. 19.11 1920, в. Дукоўшчына (злілася з в. Стрыжава) Аршанскага пав., цяпер Бешанковіцкі р-н], Герой Сав. Саюза (1944). Скончыў Віцебскі настаўніцкі ін-т (1940), Маскоўскае ваенна-інжынернае вучылішча (1941). У Вял. Айч. вайну на фронце з 1941. Удзельнік абароны Масквы, баеў на Калінінскім фронце, пад Курскам, Белгарадам, на Украіне, у Польшчы, штурму Берліна. Камандзір сапёрных узвода, роты капітан В вызначыўся пры інжынернай разведцы і будаўніцтве паромнай пераправы цераз р. Днестр (24.3.1944), мастоў цераз Прут (29.3. 1944), Зах. Буг (19.7.1944), Сан (24.7. 1944), Віслу (1—5.8.1944). Пасля вайны скончыў горны тэхнікум, працаваў у г. Новакузнецк Кемераўскай вобл. З 1974 жыве ў г. п. Шахаўская Маскоўскай вобл.

Герб г Высокае. 1494

**ВЫСАЧА́НСКІ РАЁН.** Існаваў у БССР у 1924—31. Утвораны 17.7.1924 у складзе *Віцебскай акругі* (да 26.7.1930). Цэнтр раёна — в. Высачаны. Пл. 776 км$^2$, колькасць насельніцтва 32,3 тыс чал, 420 населеных пунктаў (1925). 20.8.1924 падзелены на 10 сельсаветаў· Асінаўскі, Бабінавіцкі, Выдрэйскі, Высачанскі, Кабыльнікаўскі, Каралёўскі, Касцяеўскі, Крынкаўскі, Старабабыльскі і Стасеўскі. Скасаваны 8.7.1931, тэр ўвайшла ў склад *Лезненскага раена* *М І Камінскі*

**ВЫСАЧА́НЫ,** веска ў Крынкаўскім сельсавеце Лезненскага раена, на р. Сухадроўка За 28 км на ПдЗ ад г п Лезна, 6 км ад чыг. ст. Крынкі. 18 двароў, 507 жыхароў (1993).

У пач. 19 ст. рускі ген. Гурка (паходзіў з роду Рамейкаў — Гуркаў) пабудаваў у Аршанскім пав. маентак пад назвай Высокае. Побач з сядзібай узнікла веска, у сярэдзіне 1820-х гадоў пачалося будаўніцтва папяровай ф-кі (у 1847 270 рабочых, паравыя і вадзяныя рухавікі, у год давала 15—18 тыс. пудоў паперы). У 1867 адкрыта 4-гадовае нар. вучылішча. У 1850-я гады В. стала цэнтрам Высачанскай воласці, былі школа, бальніца, царква, крама; в. Высокае паступова змяніла назву на Высачаны. У 1902 замест папяровай пачала працаваць ільнопрадзільная ф-ка (у 1910 лакамабіль, 4 вадзяныя рухавікі, 495 рабочых). Ф-ка выпускала часаны лен, пражу, пакулле, панчохі, шкарпэткі. У 1913 атрымала назву «Высачанская мануфактура». У 1910 у весцы пачала дзейнічаць 2-гадовая вучэбна-паказальная майстэрня са слясарна-кавальскім і сталярным аддзяленнямі. У 1924 на ф-цы 214 рабочых, у 1926—554, у 1932—520 З 17.7.1924 цэнтр *Высачанскага раена,* з 8.7.1931 у Лёзненскім р-не, цэнтр сельсавета; з 15.7.1935 рабочы паселак. Напярэдадні Вял. Айч. вайны на льнопрадзільнай ф-цы 685 рабочых. З пачаткам вайны абсталяванне ф-кі эвакуіравана, карпусы ўзарваны (пасля вайны не аднаўлена). З 5.7.1941 у раене В. вяліся баі, сельская бальніца была занята пад шпіталь дывізіі. 18 ліп. праз В. праехалі ням. часці. 19 ліп. ў В. пачалі сцякацца параненыя байцы і камандзіры Чырв. Арміі. Сельскія медыкі рабілі аперацыі, аказвалі пасільную дапамогу, жыхары вескі давалі прадукты для параненых. Увосень з паяўленнем сыпнога тыфу бальніца ператворана ў інфекцыйнае аддзяленне, якое выкарыстоўвалі для сваіх мэт падпольшчыкі і партызаны. У вер 1943 у сувязі з набліжэннем Чырв. Арміі да В. акупацыйныя ўлады пачалі эвакуацыю жыхароў на захад У сак. 1944 277-я стралк. дывізія некалькі дзен вяла жорсткія баі за Высачанскую вышыню Вызвалены В. 21.6.1944 войскамі 5-й арміі 3-га Бел фронту ў ходзе Віцебска-Аршанскай аперацыі 1944. З 17.11.1948 В.— веска, з 16.7.1954 у Крынкаўскім сельсавеце. У 1970 125 двароў, 344 жыхары. Цэнтр саўгаса «Высачаны». У В школа, бібліятэка, клуб, бальніца, паштовае аддзяленне, 2 магазіны, брацкія магілы сав. воінаў, што загінулі ў Вял. Айч. вайну, помнікі вызваліцелям, мед. работнікам і партызанам. Каля В. курганны могільнік і курган.

Літ Прамысловасць дарэвалюцыйнай Беларусі Мн, 1988, Памяць Гіст-дакум хроніка Лезненскага р-на Мн, 1992

*М М Камінскі*

**ВЫСО́КАЕ,** горад у Камянецкім р-не, на р. Пульва. За 40 км на З ад г. Камянец, 3 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст — Высока-Літоўск, аўтадарогамі звязаны з Брэстам, Камянцом, Пружанамі. Да вер. 1939 наз. Высока-Літоўск. 5100 жыхароў (1991).

Упершыню ўпамінаецца ў дакументах 14 ст. пад назвай Высокі Горад. У 1494 горад атрымаў магдэбургскае права і герб — у блакітным полі сярэбраная двухпавярховая вежа-брама Належаў Іодкам, вял. князю, феадалам Хлявіцкім, Войнам, з 1647 — Сапегам, пазней Патоцкім. У 1603 закладзены касцел Св. Тройцы, які меў даўжыню 44 і шырыню 12 аршынаў, абнаўляўся ў 1735 пры Сапегах, найбольшы звон насіў назву св Пятра і Паўла. Было 2573 чал прыхаджан (у 1950-я гады ўлады аддалі касцел на грамадскія патрэбы). Сапегі пабудавалі ўмацаваны Высокаўскі замак, які моцна пацярпеў у час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* і *Паўночнай вайны 1700—21*, але быў адноўлены У 16—18 ст. майстры В. ткалі шырока вядомыя дываны і палатно. З 1671 у В. штогод праводзіліся кірмашы. У 1773—85 каля В. пабудаваны кляштар, пры якім адкрыты шпіталь на 20 чал. У 1788 цагляны завод даваў 22 тыс цэглы, 8 тыс. чарапіцы ў адзін абпал. У 1794—97 існаваў водны шлях з В. ў Гданьск. З 1795 В. ў складзе Прусіі, з 1807—Расійскай імперыі, мяст. Брэсцкага пав. У 1826—28 тут працавала суконная мануфактура. У канцы 19 ст. пабуда-

ваны палац і разбіты парк. У 1897 у В 3434 жыхары, 370 дамоў, працавалі канатная ф-ка, гарбарны і свечачны з-ды, 2 маслабойні, 3 школы. У 1914 у В 3800 жыхароў, 12 дробных прадпрыемстваў У 1915—18 акупіраваны герм. войскамі, у 1919—1920 — войскамі Польшчы. 1.8.1920 устаноўлена сав. ўлада, у канцы жніўня зноў захоплены польск войскамі Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 горад у складзе Зах. Беларусі адышоў да Польшчы, уваходзіў у Брэсцкі пав. Палескага ваяводства Дзейнічаў падп. райком КПЗБ. З вер. 1939 у складзе БССР, 6,1 тыс. жыхароў У 1940—62 цэнтр *Высокаўскага раена.* 23.6.1941 акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі ў горадзе 1297 чал. Дзейнічаў падп. райком ЛКСМБ Горад вызвалены 28.7.1944 часцямі 28-й арміі 1-га Бел. фронту ў ходзе *Люблін-Брэсцкай аперацыі 1944* У 1959 2,6 тыс. жыхароў З 1962 В ў Камянецкім р-не Працуюць завод жалезабетонных вырабаў, сырзавод, Камянецкае раеннае вытв. аб'яднанне па тэхн. забеспячэнні сельскай гаспадаркі, лясніцтва; сярэдняя, музычная, дзіцяча-юнацкая спартыўная школы, санаторная школа-інтэрнат, СПТВ механізацыі сельскай гаспадаркі, Дом культуры, Дом дзіцячай і юнацкай творчасці, 2 дашкольныя ўстановы, 2 бібліятэкі, бальніца. У В. брацкая магіла сав. воінаў і партызан, якія загінулі ў Вял. Айч вайну. Помнікі архітэктуры. Варварынская капліца 18 ст., сядзіба 1-й пал. 19 ст.

*А С Барысавец, В А Міронаў*

**ВЫСО́КАЎСКІ ЗА́МАК.** Існаваў у 17—18 ст. у г. Высокае Камянецкага р-на. Пабудаваны ў сярэдзіне 17 ст, відаць, пры віцебскім ваяводзе Паўлу Сапегу. Земляныя ўмацаванні з бастыёнамі былі ўзведзены на высокім правым беразе р. Пульва, якую падперлі плацінай, і такім чынам стварылі штучнае абвадненне. Замак з усіх бакоў абкружала вада. З ПнУ, дзе размяшчаўся ўезд, меўся шырокі стаў. Цераз яго быў перакінуты пад'емны мост, які падводзіў да 2-павярховай з трыма варотамі цаглянай вежы-брамы, схаванай у тоўшчы землянога вала. У ей размяшчаліся кардэгарда, збраёўня і пад'ёмны механізм моста. Падыходы да брамы фланкіравалі 2 магутныя нарожныя бастыены і 2 курціны. Невял. бастыены былі таксама з Пн і З. На вял. замкавым дзядзінцы стаялі драўляны палац і гасп. службы. У час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 і Паўн. вайны 1700—21 В. з. моцна пацярпеў, але потым быў адноўлены. Да нашага часу захаваліся земляныя валы і брама замка. Археал. даследаванні праводзіў у 1977 М. А. Ткачоў.

*Літ* Ткачоў М А Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII—XVIII стст Мн, 1978 *М А Ткачоў*

**ВЫСО́КАЎСКІ РАЁН.** Існаваў у 1940—62 у Брэсцкай вобл. Утвораны 15.1. 1940. Цэнтр раена — г. *Высокае* Пл. 0,8 тыс км$^2$ 97 нас. пунктаў (1947). 12 10 1940 падзелены на 12 сельсаветаў Агародніцкі, Баршчэўскі, Воўчынскі, Вярховіцкі, Гольскі, Лумнянскі, Лютаўскі, Наваселкаўскі, Расненскі, Стаўскі, Такарскі, Тымянкаўскі. 16.8.1945 з раена ў склад Польшчы перададзены Гольскі, Лумянскі, Такарскі, Тымянкаўскі сельсаветы; з Кляшчэльскага раена, тэрыторыя якога перайшла ў слад Польшчы, у В. р. перададзены Амелянецкі, Бушміцкі і Ваўковіцкі сельсаветы. 16 7.1954 у раёне скасаваны Амелянецкі, Ваўковіцкі, Лютаўскі, Наваселкаўскі і Стаўскі сельсаветы, а іх тэрыторыя перададзена ў суседнія сельсаветы гэтага ж раена. В. р. скасаваны 17.4.1962, г. Высокае, Агародніцкі, Баршчэўскі, Бушміцкі, Вярховіцкі, Воўчынскі і Расненскі сельсаветы перададзены ў склад *Камянецкага раена.*

*Літ* Административно-территориальное устройство БССР Справ Т 1—2 Мн, 1985—87 *М І Камінскі*

**ВЫСО́КІ ГАРАДЗЕ́Ц** (раней Гарадзец), веска ў Валосаўскім сельсавеце Талачынскага р-на, у саўгасе «Іскра». За 25 км на ПнЗ ад Талачына. 66 двароў, 132 жыхары (1991).

Паводле археал. даследаванняў, узнікла ў 11—12 ст. як феад. замак з неўмацаваным паселішчам каля яго. Ёсць меркаванні, што В. Г.— гэта летапісны горад *Гарадзец* За 300 м на ПдУ ад вескі ў 12 ст. быў пастаўлены камень з надпісам (Барысаў ці Высокагарадзецкі камень, гл. ў арт. *Барысавы камяні*), які, магчыма, вызначаў мяжу паміж Друцкім і Лукомскім княствамі. У часы ВКЛ маёнтак Гарадзец належаў шчыдуцкай галіне князёў Лукомскіх. У 1558 і 1561 згадваецца як маемасць Багдана і Балтазара Андрэевічаў Лукомскіх, якія мелі пагранічны канфлікт з удавой І. Б. Сапегі, уладальніка суседняга маентка Чарэя. У выніку судовага разбору была ўстаноўлена мяжа паміж Гарадцом і в. Рыдамля Чарэйскага маентка. Князі Лукомскія-Шчыдуцкія валодалі Гарадцом да 1-й чвэрці 17 ст., калі ен разам са Шчыдутамі перайшоў (відаць, у якасці шлюбнага пасагу) да шляхцянкі Войцаха Галінскага Удава апошняга з сынамі Пятром, Стафанам і Базылем у 1639 зноў судзілася з Сапегамі з-за мяжы паміж Гарадцом і Рыдамляй. Ва ўладанні Галінскіх заставаўся і ў 18 ст. Паводле інвентара 1754, да маёнтка належалі вескі Абідаўка, Белая Дуброва, Замошша, Лозы, Нізкі Гарадзец, Сельцы і Слабодка (Рапалоўка), Якубава. У 1772 В. Г. з воласцю далучаны да Расійскай імперыі, новая мяжа паміж Рэччу Паспалітай і Расійскай імперыяй да 1793 праходзіла па зах. краі воласці. У гэты час уздоўж мяжы быў насыпаны вал, рэшткі якога захаваліся да нашых дзен У 1785 маентак належаў сумесна панам Янучынскаму, Рудніцкаму і Сшайлу. У 1886 у сяле В. Г. 24 двары, 110 жыхароў, царква, школа, вадзяны млын. У 19 — пач. 20 ст. цэнтр Высокагарадзецкай вол. Сенненскага пав. З 20.8 1924 цэнтр сельсавета ў Талачынскім р-не У Вял Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў крас. 1943 амаль знішчылі веску Пасля вайны адноўлена. З 16.7. 1954 у Воласаўскім сельсавеце Рэшткі замчышча знішчаны кар'ерам у 1970-я гады. Радзіма бел. пісьменніка М. Зарэцкага.

*Літ* Аникиевич К Т Сенненский уезд Могилевской губернии Опыт описания Могилев, 1907, Sapiehowie Materjały historyczno-genealogiczne i majątkowe T 1—3 Pb. 1890—94 *В Л Насевіч*

**ВЫСО́ЦКІ** Іван (Ян) Станіслававіч (каля 1803, Гродзенская губ.— не паз ней 1854), удзельнік вызваленчага руху 1820-х г. З радавітай шляхецкай сям'і. Уваходзіў у тайнае т-ва *«Заране»* ў Свіслацкай гімназіі (1823). З 1824 у Беластоку, прыняў у т-ва канцылярыста Беластоцкага гал. суда Л. І. Вронскага. У 1825 уступіў у т-ва *«Ваенныя сябры»*, разам з Вронскім кіраваў у Беластоку яго 3-й (падрыхтоўчай) ступенню (складалася з членаў раней самастойнага т-ва «Заране»). 2(14).5.1826 арыштаваны. Ваенна-судовая камісія ў Беластоку прыгаварыла яго да пакарання смерцю, па царскай канфірмацыі (1827) пазбаўлены дваранства і прыгавораны да крапасных работ тэрмінам на 5 гадоў з далейшым пасяленнем у Сібіры. Летам 1827 сасланы ў Омскую, у жніўні пераведзены ў Усць-Каменагорскую крэпасці Па хадайніцтву сваякоў у 1830 прызначаны радавым у Сібірскія лінейныя батальены. Служыў у г. Петрапаўлаўск Табольскай губ У 1845 у чыне паручніка звольнены ў адстаўку і накіраваны на цывільную службу з чынам губернскага сакратара. Жыў у Петрапаўлаўску пад тайным наглядам паліцыі. Далейшы лес невядомы.

*Літ* Сиверс А А Тайное общество военных друзей // Дела и дни 1920 Кн 1, Тальская О С Члены тайного Общества военных друзей в Сибири // Сов славяноведение 1971 № 4, Букчин С К мечам рванулись наши руки Докум повести 2 изд Мн, 1985 *В В Швед*

**ВЫСО́ЦКІ** Петр Яцак (10.9.1797, Варшава — 6.1.1875), дзеяч нацыянальна-вызваленчага руху ў Польшчы, удзельнік *паўстання 1830—31* З бел. шляхецкага роду герба «Адравонж». Вучыўся ў Варшаве У 1817 уступіў добраахвотнікам у грэнадзерскі полк каралеўскай гвардыі. Скончыў школу падхаружых у Лазенках пад Варшавай, атрымаў чын падпаручніка (1827) і стаў інструктарам школы Гарачы прыхільнік адраджэння незалежнасці Польшчы, у снеж 1828 заснаваў тайнае т-ва «Ваенны саюз», у які неўзабаве ўступіла большасць слухачоў школы, а таксама студэнты, літаратары і інш Т-ва ставіла за мэту падрыхтоўку ваеннага перавароту, у выніку якога сфарміраваўся б рэвалюцыйны ўрад, здольны ўзначаліць узбр барацьбу па лякаў з царызмам. У т-ве В. праводзіў памяркоўную лінію, лічыў, што узбр выступленне будзе паспяховым толькі пры спрыяльных абставінах, але яны яшчэ не наступілі для арыстакратыі і сейма З гэтай нагоды быў вымушаны стрымаць намер больш рашучых членаў т-ва забіць цара Мікалая I у час яго каранацыі ў якасці польскага караля (май 1829) З пачаткам паўстання ў Варшаве (ліст. 1830) пасля некаторых ваганняў далучыўся да яго, на чале атрада падхарунжых (160 чал.) напаў пад Лазенкамі на кашары 3 рус. уланскіх палкоў, затым прабіўся ў Варшаву Быў ад'ютантам галоўнакамандуючага польскімі войскамі М. Радзівіла, удзельнічаў у рэйдзе корпуса ген Ю Дзвярніцкага на Валынь і ў Галіцыю, адкуль вярнуўся ў чыне палкоўніка. Браў удзел у перагаворах Нацыянальнага ўрада ў Варшаве з галоўнакамандуючым рус. войскамі І. Ф Паскевічам і вял князем Міхаілам. Пры абароне Варшавы (вер. 1831) узначальваў батальен на рэдуце ў Волі — ключавым пункце абарончай сістэмы сталіцы Паранены ў баі, трапіў у палон Судом у Бабруйску прыгавораны да чвартавання, судом у Варшаве (1833) — да павешання Паводле амністыі смяротная кара заменена сібірскай катаргай тэрмінам на 20 гадоў. Адбываў пакаранне на Аляксандраўскім вінакурным заводзе. За спробу ўцячы (1835) падвергнуты экзекуцыі (1 тыс. шпіцрутэнаў) і адпраўлены ў Акатуй, дзе працаваў на рудніку, прыкаваны за нагу да тачкі. Пасля вызвалення ад катаржнай працы застаўся ў Сібіры на пасяленні, да 1844 жыў у Акатуі. Сябраваў з дзекабрыстам М. С. Луніным, аказваў яму матэрыяльную дапамогу У 1857 паміляваны. Вярнуўся на радзіму, жыў у мяст. Варта (цяпер у Лодзінскім ваяводстве Польшчы), дзе і памер. Аўтар «Успамінаў» пра паўстанне 1830—31

*Тв* Pamiętnik Piotra Wysockiego o powstaniu 29 listopada 1830 roku T 1—2 Paryz, [1863]

*Літ* Дьяков В А Первые шаги под лозунгом «За нашу и вашу свободу», 1830—1856 // Очерки революционных связей народов России и Польши, 1815—1917 М, 1976, Дьяков В А, Кацнельсон Д Б, Шостакович Б С Петр Высоцкий на сибирской каторге (1835—1856) // Ссыльные революционеры в Сибири (XIX в — февр 1917 г) Иркутск, 1979 Вып 4, Шостакович Б С Политические ссыльные поляки и декабристы в Сибири // Там жа 1973 Вып 1, Łepkowski T Piotr Wysocki Warszawa, 1972 *В В Швед*

У Высоцкі.

**ВЫСО́ЦКІ** Уладзіслаў (1908—12 10 1943), удзельнік баеў на Беларусі ў Вял Айч. вайну. Герой Сав. Саюза (1943). Паляк. З мая 1943 у Польскай дывізіі імя Т Касцюшкі. Нам камандзіра батальена капітан В. вызначыўся ў баях каля в Леніна Горацкага р-на. 12 10 1943 на адказным участку наступлення батальен пад яго камандаваннем з малымі стратамі авалодаў апорным вузлом супраціўлення гітлераўцаў і ўклініўся ў 2-ю лінію абароны ворага каля в. Трагубава (цяпер в. Касцюшкава) Апынуўшыся ў акружэнні, В, каб не трапіць у палон, пакончыў з сабой

**ВЫ́СТАЎКА ДАСЯГНЕ́ННЯЎ НАРО́ДНАЙ ГАСПАДА́РКІ БССР, ВДНГ.** Дзейнічала ў Мінску ў 1968—91. Адкрыта для прапаганды дасягненняў вытворчасці, сельскай гаспадаркі, навукі, тэхнікі, культуры. Выставачны павільен (арх. С Баткоўскі, Ю Градаў, Л Левін) і адкрытая пляцоўка для вялікагабарытных экспанатаў размешчаны ў гіст частцы горада на правым беразе р. Свіслач Экспазіцыйная пл. 6000 м². Штогод дэманстравалася больш за 6 тыс. экспанатаў. Былі арганізаваны юбілейныя экспазіцыі да 50-годдзя БССР і КПБ, 100-годдзя з дня нараджэння У. І. Леніна, 50-годдзя ўтварэння СССР, адкрыцця XXV з'езда КПСС, 60-годдзя Кастрычніцкай рэвалюцыі і інш На тэр. ВДНГ арганізоўваліся паказы прадукцыі замежных дзяржаў. З 1992 перайменавана ў Рэсп. выставачны цэнтр Рэспублікі Беларусь пры Дзярж. камітэце па знешніх эканам сувязях Асн кірункі яго працы — актывізацыя знешнеэканам. дзейнасці прадпрыемстваў і арганізацый, дэманстрацыя магчымасцей навук -прамысл. патэнцыялу, арганізацыя выставак прадукцыі бел. прадпрыемстваў, прыцягненне замежных перадавых тэхналогій і тэхнікі, інвестыцый у нар гаспадарку рэспублікі, арганізацыя выставак прадукцыі замежных фірм на Беларусі *Т Н Бялецкая*

**«ВЫСТРАЛ»,** газета-аднадзенка рэвалюцыйна-вызваленчага кірунку ў Зах. Беларусі. Выйшла 8.10.1924 у Гродне на бел мове Рэдактар-выдавец Е. Цынцэвіч. Ідэйным зместам блізкая да газеты-аднадзенкі *«Гудок»*. Рэзка крытыкавала афіц. палітыку Польшчы, паказвала сац і нац прыгнет у Зах. Беларусі, бяспраўе нац. меншасцей, рэлігійны ўціск праваслаўнага насельніцтва, праследаванне ўдзельнікаў бел вызв. руху, якія або знаходзяцца ў турмах, або чакаюць такога лесу Выказвала ўпэўненасць у сіле народа, абуджанага да новага жыцця У арт «Што чуваць на свеце» адзначала размежаванне міжнар. сіл на 2 лагеры — СССР і капіталіст краіны Паведамляла пра бяспраўе, дарагоўлю, забастоўкі і арышты ў Польшчы, пра ўзбр напады партыз груп на Стоўбцы, на цягнік каля Лунінца, на памешчыцкія маенткі і інш, пра пераходы людзей з прыгранічных раенаў Зах. Беларусі ў БССР Пісала пра класавую барацьбу працоўных у розных краінах свету (арт «Барацьба з імперыялізмам»). У арт «Змаганне за беларускую школу» пытанне аб нац школе трактавала як самае балючае, а прыняты сеймам закон аб школе — як паказны жэст перад Лігай Нацый, па сутнасці, жабрачая падачка працоўным Зах. Беларусі. Двухмоўныя школы ацэньвала як рассаднік паланізацыі і нац. самагубства (будуць рыхтаваць «угнаенне для росту чужой культуры») Выказвала патрабаванне самім стварыць сваю культуру па прыкладу БССР. Крытыкавала газ. «Dziennik Kresowy» («Ускраінны дзеннік»), якая «сваім вульгарызмам і бульваршчынай абражае грамадскае пачуцце». Асвятляла гасп цяжкасці бел. прытулку ў Гродне, здзеклівa каменціравала ўтварэнне «Таварыства сяброў Гродна», якое можа хіба што вырошчваць кветкі Рэкламавала газ. *«Сялянская праўда»* *А М Пяткевіч*

**ВЫ́ХАД СЯЛЯ́НСКІ,** права сялян на выхад з маентка аднаго феадала і пераход у маентак другога. Шырока выкарыстоўваўся сялянамі як адзін з асноўных сродкаў барацьбы супраць узмацнення ўсіх форм феад. прыгнету, асабліва росту эксплуатацыі. 1) На Беларусі ва ўмовах далейшага развіцця таварна-грашовых адносін рост сувязей сельскай гаспадаркі з унутраным і асабліва знешнім рынкамі даваў магчымасць феадалам павялічыць свае даходы за кошт узмацнення ўсіх форм эксплуатацыі сялянства, В с. стаў галоўнай перашкодай гэтаму імкненню. Феадалы з дапамогай звычаевых і заканадаўчых норм імкнуліся істотна абмежаваць В. с. Розныя абмежаванні В. с. вядомы з сярэдзіны 15 ст. *(Прывілей 1447)* і былі звязаны з працэсам запрыгоньвання сялянства і развіццем прыгоннага права ў ВКЛ. У пошуках лепшай долі сяляне, большасць якіх да 16 ст яшчэ захоўвала асабістую «волю», г. зн права на выхад, і таму лічылася «пахожымі, або «вольнымі» людзьмі», выходзілі з маенткаў адных

феадалаў і пераходзілі ў маенткі другіх. Каб атрымаць дазвол на выхад, сяляне павінны былі выканаць шэраг неабходных умоў — абавязкаў, сярод якіх былі плата за выхад («выход», «куница выходная»), выплата даўгоў і зварот «запоможенья», г. зн. рознай маемасці і сродкаў вытворчасці, якія прыхожыя сяляне атрымлівалі ад феадалаў пры пасяленні ў іх маентках, дазвол феадала на выхад («лист выходной», або «вызволеный»). Значную ролю ў абмежаванні В. с адыгрывалі пагадненні феадалаў асобных рэгіенаў пра аднолькавыя ўмовы выхаду і прыему «пахожых людзей» Напр., найбольш важнай нормай такога пагаднення феадалаў Віцебскага ваяводства 1531, якія дамовіліся прымаць і адпускаць «пахожых» людзей «па-полацку», г зн. так, як гэта ўжо рабілі феадалы Полацкага ваяводства, было ўстанаўленне ў маентках усіх феадалаў адзіных норм павіннасцей. Адпаведна з гэтай «ухвалой», «пахожыя» людзі маглі выходзіць з маенткаў толькі вясною Вялікую ролю ў абмежаванні В. с адыграла значная нівеліроўка феад. павіннасцей у выніку правядзення ў ВКЛ аграрнай рэформы *(валочнай памеры)* Частка норм, якія абмяжоўвалі В с. і склаліся ў жыцці і судовай практыцы, была заканадаўча афармлена Статутамі ВКЛ 1529, 1566, 1588. Паводле Статута ВКЛ 1529 «пахожы» чалавек, які пасяліўся ў маентку на «волі», г зн. на часовай ільгоце ў павіннасцях, і пражыў у ім увесь тэрмін ільготы, мог пайсці з маентка толькі пры ўмове выканання павіннасцей на працягу такога ж тэрміну або выплаты вялікай грашовай сумы з разліку 6 грошаў за кожны тыдзень. Калі такі чалавек уцякаў, ён адшукваўся ўжо як прыгонны («отчич»). Абмежаванні В. с. садзейнічалі працягламу пражыванню «пахожых» сялян у адным маентку, а тым самым і запрыгоньванню на аснове юрыд. прынцыпу даўнасці, тэрмін якой з часу ўвядзення Статута ВКЛ 1529 складаў 10 гадоў.

2) У Расіі пачатак заканадаўчаму афармленню прыгоннага права паклаў Судзебнік 1497, які ўстанавіў для В с адзіны тэрмін тыдзень да Юр'ева дня (26 лістапада) і тыдзень пасля яго Абавязковай умовай была выплата феадалам пажылога (грашовая выплата селяніна за права пераходу да інш. уладальніка). Судзебнік 1550 пацвердзіў тэрмін В. с., але павялічыў памер пажылога. У 1581 урад Івана IV у шэрагу рэгіенаў забараніў В. с., увеўшы запаведныя гады. Урад цара Федара Іванавіча ў 1592—93 забараніў В с на ўсёй тэр. дзяржавы. Гэты ўказ быў пацверджаны Саборным улажэннем 9.3.1607 Саборнае ўлажэнне 1649 поўнасцю адмяніла В с.

*Літ* Статут Великого княжества Литовского 1529 г Мн, 1960, Статут Великого княжества Литовского 1566 г // Временник имп Московского о-ва истории и древностей российских М, 1855 Кн 23, Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 Тэксты Давед. Камент Мн, 1989, Леонтович Ф И Крестьяне Юго-Западной России по литовскому праву XV и XVI столетий Киев, 1863, Его ж Крестьянский двор в Литовско-Русском государстве Вып 1 Спб, 1897 Любавский М К Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского статута Ист очерки [М, 1892], Пичета В И Белоруссия и Литва XV—XVI вв (исслед по истории соц-экон, полит и культ развития) М, 1961, Похилевич Д Л Право крестьян Белоруссии, Литвы и Украины на землю и выход в XV—XVI вв // Вопросы истории 1973 № 12, Спірыдонаў М Ф Роля даўнасці ў запрыгоньванні сялянства Беларусі // Весці АН БССР Сер грамад навук 1980 № 1, Яго ж «Воля» и «неволя» в период действия Статута Великого княжества Литовского 1529 г // Первый Литовский статут 1529 г Вильнюс, 1982, Греков Б Д Крестьяне на Руси с древнейших времен до XVII в Кн 1—2 2 изд М, 1952—54, Корецкий В И Закрепощение крестьян и классовая борьба в России во второй половине XVI в М, 1970, Его ж Формирование крепостного права и первая крестьянская война в России М, 1975 *М Ф Спірыдонаў*

**ВЫ́ШАДКІ**, веска ў Стадолішчанскім сельсавеце Гарадоцкага р-на, за 20 км на ПнУ ад Гарадка, на р Аўсянка. 41 двор, 92 ж. (1992) Упершыню ўпамінаецца ў 1570 як сяло дзяржаўнай Усвяцкай вол. Віцебскага ваяв. ВКЛ, занятай рус. войскамі ў ходзе Лівонскай вайны 1558—83. Вернута ВКЛ у 1582. У 1633 усвяцкі староста Петр Рудаміна-Дусяцкі атрымаў В ў леннае ўладанне, якое затым перайшло да яго сына Яна Мікалая. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Расійскай імперыі, падаравана Кацярынай II разам з навакольнымі вёскамі памешчыку фон Крузе З гэтага часу В.— цэнтр прыватнага маентка. У 1785 маентак ахопліваў 42 дробныя паселішчы (200 двароў), палова з якіх мела 1—4 двары В. ўваходзілі ў Суражскі пав., з 1866— цэнтр воласці ў Гарадоцкім пав. Віцебскай губ.; царква, 3 кірмашы на год З 15 2 1923 у Віцебскім павеце З 20.8.1924 да 1928 цэнтр сельсавета Межанскага, з 8.7.1931 у Вышадскім сельсавеце Гарадоцкага р-на У 1941 у В. 41 двор, 185 ж. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў жн. 1942 спалілі вёску, знішчылі 12 жыхароў Уваходзіла ў *Суражскую партызанскую зону*. Вызвалена ў снеж. 1943 у ходзе *Гарадоцкай аперацыі 1943* З 16.7.1954 у Бяскатаўскім, з 26.3.1973 — у Стадолішчанскім сельсавеце. У складзе калгаса імя Ф. Энгельса У В. вайсковыя могілкі сав. воінаў, якія загінулі ў Вял Айч вайну Каля вёскі гарадзішча днепрадзвінскай і банцараўскай культур, курганны могільнік крывічоў.

*Літ* Писцовые книги Московского государства Ч 1, отд 2 Спб, 1877

*В Л Насевіч*

**ВЫ́ШНІКАЎ** Кірыла Антонавіч [4(16) 1880, мяст. Ветка Гомельскага пав.— 29 12.1914(11.1.1915)], поўны Георгіеўскі кавалер З 1901 служыў у 97-м пяхотным Ліфляндскім палку. З 1906 на звыштэрміновай службе. У 1908 скончыў школу падпрапаршчыкаў. З 1909 у 100-м пяхотным Астраўскім палку; з 1911 зноў у Ліфляндскім палку, камандзір узвода У 1-ю сусв вайну ў ліст. 1914 залічаны на часова-афіцэрскую пасаду. У 1914 узнагароджаны Георгіеўскім крыжам 4 ступеняў. Загінуў у баі

**ВЫШЫ́НСКІ** Уладзімір Ільіч (н. 12 1. 1929, Віцебск), беларускі гісторык Канд гіст навук (1970) Скончыў БДУ (1957) З 1957 у Ін-це гісторыі АН Беларусі. Даследуе пытанні паліт. і эканам. гісторыі Беларусі ў 1921—41 Адзін з аўтараў «Гісторыі Мінска» (1967), «Гісторыі Беларускай ССР» (т 3, 1973), «Гісторыі рабочага класа Беларускай ССР» (т 2, 1985)

*Тв* Змены сацыяльнай структуры насельніцтва БССР у міжваенны перыяд Мн 1978 (разам з П Ц Петрыкавым), Немеркнущие трудовые традиции Мн, 1988, Індустрыялізацыя БССР // Актуальныя пытанні гісторыі БССР Савецкі перыяд Мн 1991

**ВЫ́ШЫЎКА**, від дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, малюнак ці арнамент, выкананы іголкай уручную або пры дапамозе машыны на розных тканінах, скуры ніткамі, бісерам і інш. Адзін з найбольш пашыраных на Беларусі відаў нар творчасці, мае яркія нац. асаблівасці і адначасова захоўвае агульнаслав арнаментальныя рысы Стараж В. адлюстроўвае сімвалы паганскай міфалогіі дрэва жыцця, выявы птушак і інш. Узнікненне В звязана са з'яўленнем шыўка — шва на адзенні са скур жывел Тэхніка яе ўдасканальвалася з пераходам ад каменнага і касцянога шыла да касцяной, потым бронзавай і стальной іголкі, а таксама з развіццём прадзення, ткацтва, фарбавальнай справы і г д. Асобныя прыемы старадаўняй В. паходжаннем звязаны з ткацтвам і пляценнем і захаваліся да нашага часу Спосаб перапляцення нацягненых на раму нітак асновы ўтком без чаўнака, якім карыстаюцца нар. майстры Навагрудчыны, з'яўляецца прасцейшым тканнем, пляценнем і В. адначасова Здаўна В аздаблялі адзенне, галаўныя ўборы, ручнікі, абрусы і інш. рэчы, звязаныя з традыц нар. побытам, звычаямі і абрадамі беларусаў

На тэр. Беларусі найбольш стараж ўзоры В. вядомы па рэштках скуранога абутку 10—13 ст. з раскопак гарадзішчаў Полацка, Турава, Мінска, Бярэсця, Давыд-Гарадка, Пінска, Слуцка, Слоніма, Мсціслава. Малюнкі спіралепадобных завіткоў, кружкоў, хвалістых і гладкіх палосак ствараліся шыўком «вяровачкай», «гусем», «назад іголкаю» Ільняныя і шарсцяныя тканіны, на якіх вышывалі нашы далекія продкі, не захаваліся. На шэрсці вядомы толькі фрагмент В 13 ст. з Мсціслава. Больш дайшло да нашага часу ўзораў золаташыцця на прывазных шаўковых тканінах (Тураў, Бярэсце, Навагрудак) Залочаныя ніткі для яго (тонкі сярэбраны пазалочаны дроцік, спрадзены на

шаўковую нітку) таксама вывозілі з Візантыі. Фрагмент вышытага каўняра з кургана каля в. *Лісна* Верхнядзвінскага р-на датуецца мяжой 11—12 ст. Скураны абутак, кашалькі, футляры, ножны вышывалі шарсцянымі каляровымі, часам шаўковымі і залочанымі ніткамі, бронзавым дроцікам. Ножны, аздобленыя бронзай, трапляюцца ў каменных магілах. Жаночыя галаўныя ўборы, адзенне расшывалі шкляным бісерам, дробнымі пацеркамі (Старая Рудня Жлобінскага, *Захарнічы* Полацкага р-наў), бронзавымі, сярэбранымі, залочанымі бляшкамі, зрэдку аблямаванымі пацеркамі (каменныя магілы Панямоння).

У 14—18 ст. В. атрымала пашырэнне ў аздабленні культавага ўбрання. Каляровым шоўкам, залочанымі і сярэбранымі ніткамі аздаблялі тонкія льняныя тканіны, з якіх выраблялі культавае адзенне, харугвы, плашчаніцы, абразы і інш. Стараж. бел. сюжэтная В. (шытво) звязана як з візантыйскай, так і з зах.-еўрапейскай іканапіснай традыцыяй. У канцы 16—17 ст. В. шырока выкарыстоўвалася ў аздабленні жаночых галаўных убораў шляхецка-магнацкіх колаў: чапцоў і рантухаў («рантушек», «рентух» — шаль памерам каля 220×70 см). Чапцы чырвонага або малінавага адамашку, батысту вышывалі залатымі і сярэбранымі ніткамі, якія цалкам усцілалі фон. Буйнарапортны раслінны арнамент нагадваў ціснёны (рыты) аксаміт. В. ніткамі спалучалася з нашыўкамі белых паскаў, залатых ці сярэбраных карункаў, апухай. Аксамітныя берэты і паясы Барбары Радзівіл былі расшыты жэмчугам, шнуром, каштоўнымі камянямі, залатымі медальёнчыкамі. Тонкія палатняныя рантухі аздаблялі па краях двухбаковым арнаментам у тэхніцы «шыўком цераз іголку». З 1570—80-х гадоў пашырана «чорнае» або «чырвонае» шытво, папулярнае ў Еўропе. Нескладаныя геаметрызаваныя арнаменты выконвалі па італьянскіх і ням. узорах 16—17 ст. Апрача чорнага і чырвонага для В. выкарыстоўвалі белы, карычневы шоўк. Пазнейшыя ўзоры рантухаў вызначаліся паліхромнасцю, выконваліся з абодвух бакоў палатна, нагадваючы ўсходнюю тэхніку В. У бел. і польскай В. 17 ст. часта сустракаюцца матывы стылізаванага гваздзіка з вострымі зубкападобнымі пялёсткамі. Выявы кветак не заключаны ў строгі ўзорысты шляк, а свабодна размешчаны па краях рантуха. У 18—19 ст. вышываныя рантухі з мяшчанскай і шляхецкай моды перайшлі ў нар. строі, атрымаўшы назвы квяцістыя хусты або наміткі. Арнаментальныя кампазіцыі ў В. пераплятаюцца з малюнкам традыцыйнага ўзорыстага ткацтва 18—19 ст. *(карэліцкія шпалеры, слуцкія паясы* і інш.).

На Беларусі В. здаўна была адным з асн. заняткаў жанчын у сялянскай сям'і. У 19— пач. 20 ст. нар. майстры аздаблялі ручной В. ільняныя, шарсцяныя, пяньковыя, радзей баваўняныя тканіны найчасцей натуральнага белага колеру, а таксама скуру, лямец. Ужывалі пераважна чырвоныя, чорныя, блакітныя, белыя баваўняныя ніткі, «горынь», «забалач» фабрычнага гатунку, радзей шоўк, чорны волас. У старадаўняй В. шырока выкарыстоўвалі самапрадныя ніткі лёну і воўны, афарбаваныя натуральнымі фарбавальнікамі ў вохрыста-чырвоны, чорны, зялёны і інш. колеры. З пач. 20 ст. пашырана паліхромая В. гладдзю рознакаляровым шоўкам, мулінэ, гарусам па белым паркалі. Аздобленыя В. тканіны выкарыстоўваюць на адзенне (кашулі, фартухі, гарсэты, андаракі), выраб рэчаў хатняга ўжытку (ручнікі, абрусы, сурвэткі і інш). Існуюць розныя прыёмы В.: лічаная (выкананая з улікам колькасці нітак тканіны — крыжык, працяг, лічаная гладзь, мярэжка і інш.) і адвольная (без уліку структуры тканіны, калі шыўкі ўкладваюцца ў межах намаляванага контура,— ланцужок, гафт або «сакаленне», аплікацыя і інш.). У нар. мастацтве беларусаў 19— пач. 20 ст. найбольш пашырана лічаная В.— працяг, крыжык чырвонага ці чырвона-чорнага каларыту, у 20 ст.— адвольная паліхромная. У арнаменце характэрны кампазіцыі з геаметрычных і раслінных фігур, радзей сустракаюцца антрапаморфныя і заамаорфныя матывы.

Нар. В. мае мясцовыя асаблівасці, якія ўвасабляюць стылявыя прынцыпы нар. творчасці 6 гісторыка-этнаграфічных рэгіёнаў. У зах. Палессі выкарыстоўваецца працяг, які нагадвае пераборы ўзорыстага ткацтва. Чырвоны або чырвоны з невял. ўкрапаннямі чорнага геаметрычны арнамент збіраецца ў вузкія, нібы тасёмкі, шлячкі, якія рытмічна запаўняюць паверхню белага кужалю кашуль і фартухоў. Для ўсх. Палесся характэрна разнастайнасць В. (працяг, крыжык, ланцужок, нялічаная гладзь, гафт), багацце арнаментальных матываў. У турава-мазырскім строі сярэдзіны 20 ст. побач з чырвоным рамбічным арнаментам вял. пашырэнне атрымаў паліхромны, выкананы нялічанай гладдзю. Для Прыдняпроўя характэрна чырвона-чорная, чыста чорная ці чыста белая В. па серабрыста-белым палатне крыжыкам, гафтам, лічанай гладдзю, абкідкай. Чорны і белы каларыт сустракаецца ў летніх касцюмах буда-кашалёўскага і неглюбскага строяў. Самабытнасцю вызначаецца В. Наддзвіння і Паазер'я (белая або чырвона-белая мярэжка, цыраванне з разнастайнымі фактурнымі вылучэннямі выяўленчых і геаметрычных матываў). У цэнтр. Беларусі В. спалучае рысы нар. мастацтва ўсіх рэгіёнаў, пашыраны працяг і крыжык. Высокі маст. ўзровень В. капыльска-клецкага і пухавіцкага строяў. Геаметрычныя матывы чырвона-чорнай В. Случчыны цесна звязаны з узорыстым тканнем (закладаннем). Стрыманым характарам вызначаецца В. Панямоння. Лепшыя ўзоры нар. В. шырока выкарыстоўваюцца сучаснымі мастакамі-прафесіяналамі для

Вышыўка працягам. Фрагмент фартуха. Вёска Пасека Старадарожскага р-на.

Вышыўка крыжыкам. Фрагмент ручніка. Вёска Карма Добрушскага р-на.

Да арт. **Вышыўка.** Абклад абраза Маці Боскай Казанскай, вышыты бісерам. 18—19 ст. Веткаўскі дзяржаўны музей народнай творчасці

стварэння касцюма, дэкаратыўных тканін. Машынная В. развіта на прадпрыемствах маст. прам-сці і інш

*Літ* Фадзеева В Я Беларуская народная вышыўка Мн, 1991 *М Ф Раманюк*

**«ВЫШЭ́ЙШАЯ ШКО́ЛА»**, дзяржаўнае кніжнае выдавецтва. Засн. ў 1961 у Мінску на базе выд-ва БДУ і рэдакцыйна-выдавецкага аддзела. Да 1963 наз. Выд-вам Мін-ва вышэйшай, сярэдняй спец. і прафес. адукацыі БССР. Выдае падручнікі, навук. дапаможнікі і навуч.-метадычную л-ру для ВНУ, сярэдніх спец навуч. устаноў сістэмы прафесійна-тэхн. адукацыі, манаграфіі, навукова-папулярную л-ру, даведнікі, слоўнікі, міжведамасныя навук. і навукова-тэхн. зборнікі. Штогод выпускае каля 200 назваў кніг і брашур агульным накладам больш за 3 млн. экз. Выдае кнігі па гісторыі Беларусі, тапаніміцы, гісторыі бел. культуры, фальклору і інш

**ВЫШЭ́ЙШЫ САВЕ́Т НАРО́ДНАЙ ГАСПАДА́РКІ БССР**, ВСНГ БССР, дзярж. орган адм.-каманднага кіравання прамысловасцю Беларусі ў 1923—32 Утвораны 4.12.1923 паводле пастановы Прэзідыума ЦВК і СНК БССР аб перайменаванні СНГ ССРБ. Эканомікай Сав. Рэспублікі (з 1918 РСФСР) кіраваў агульнагасп., жорстка цэнтралізаваны, бюракратызаваны орган — ВСНГ, утвораны 2(15).12.1917. ВСНГ меў у падпарадкаванні главкі, цэнтр. ўпраўленні — «цэнтры», пастаянныя і часовыя спец. органы. На месцах, у т. л. і на Беларусі,— губернскія і павятовыя саўнаргасы — СНГ, якія пад кантролем мясцовых Саветаў рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў павінны былі ажыццяўляць «арганізацыю і рэгуляванне эканамічнага жыцця». На Беларусі ў адпаведнасці з першай Канстытуцыяй ССРБ (1919) на СНГ ускладалася кіраўніцтва асобнымі галінамі прам-сці (паліўнай, лясной, буд. матэрыялаў, харчасмакавай і інш.). СНГ меў правы канфіскацыі, рэквізіцыі, прымусовага сіндыцыравання розных галін прам-сці і гандлю, правядзення інш. мерапрыемстваў у вытв-сці і размеркаванні прамысл. прадукцыі, а таксама дзярж. фінансаў. У 1921 у падпарадкаванні СНГ было 87 найб. буйных прадпрыемстваў (5,4 тыс. рабочых). Кіраўніцтва мясцовай прам-сцю (саматужная, мясцовае буд-ва і г д.) перайшло ад павятовых СНГ да ўтвораных у павятовых выканкомах эканам. аддзелаў, якія падпарадкоўваліся СНГ ССРБ. У 1921 у структуры рэсп. СНГ было 14 вытворчых і 12 функцыянальных аддзелаў, працавала 1009 чал., на 6 паветаў, якія складалі тэр. ССРБ, упраўленцаў было зашмат На месцах створана 19 заводаўпраўленняў і 15 групавых упраўленняў, якія аб'ядноўвалі аднародныя па вытворчасці або блізкія тэрытарыяльна прадпрыемствы. У 1922 з пачаткам нэпа некаторыя групавыя ўпраўленні ліквідаваны, іншыя аб'яднаны або здадзены ў арэнду; функцыянальныя рэарганізаваны ў адзіны апарат. Пасля ўтварэння СССР было праведзена размеркаванне прамысл. прадпрыемстваў на саюзныя і рэспубліканскія. Пасля перайменавання СНГ БССР у ВСНГ БССР, апошні, з'яўляючыся адным з наркаматаў рэспублікі, непасрэдна падпарадкоўваўся ЦВК і СНК БССР, адначасова быў органам ВСНГ СССР на тэр. БССР, дырэктывамі якога кіраваўся ў сваей дзейнасці. Старшыня ВСНГ назначаўся ЦВК БССР, СНК БССР фарміраваў прэзідыум ВСНГ. Бягучыя пытанні вырашала бюро прэзідыума (старшыня ВСНГ і два загадчыкі аддзелаў). ВСНГ БССР складаў і даваў на зацвярджэнне эканамічнай нарадзе і ВСНГ СССР вытворчы план і бюджэт прам-сці, якая яму падпарадкоўвалася, распрацоўваў праекты заканадаўства рэспублікі па прам-сці, даводзіў да групавых упраўленняў праграму выпуску прамысл. прадукцыі на год і інш. Паводле пастановы ЦВК і СНК БССР ад 26.9. 1924 «Аб рэарганізацыі прамысловасці», групавыя ўпраўленні былі ліквідаваны, замест іх створаны трэсты. «Трэсціраванне» распаўсюджвалася таксама на транспарт, камунальную гаспадарку, выдавецкую справу і інш. Трэсты аб'ядноўвалі прадпрыемствы па галіновым прынцыпе, сталі асн. падраздзяленнем у структуры дзярж. кіравання прамысловасцю. У снеж. 1927 ЦВК і СНК БССР правялі рэарганізацыю структуры ВСНГ БССР — створаны савет ВСНГ (50 чал.), прамыслова-планавая камісія, сакратарыят, 4 аддзелы. У савет ВСНГ уваходзілі адказныя супрацоўнікі апарату ВСНГ, прадстаўнікі наркаматаў і грамадскіх арг-цый. На яго пасяджэннях абмяркоўваліся найб. важныя пытанні развіцця прам-сці БССР Прэзідыум ВСНГ БССР атрымаў правы канчаткова зацвярджаць прамыслова-фінансавыя планы, балансы, статуты трэстаў, тэхн праекты прамысл буд-ва. У гэты час у непасрэдным падпарадкаванні ВСНГ БССР знаходзіліся 122 прадпрыемствы (23,5 тыс. чал.), 113 з іх уваходзілі ў структуру 9 трэстаў, астатнія дзейнічалі як аўтаномныя гасп. адзінкі. Да 1930 у складзе ВСНГ БССР 13 рэсп. трэстаў, якія падпарадкоўваліся галіновым апаратыўным групам (апошнія ў 1928 замянілі аддзелы цэнтр. апарата ВСНГ БССР). У снеж. 1930 з мэтай узмацнення адзінаначалля і спрашчэння структуры ВСНГ БССР замест трэстаў і апаратыўных груп створаны 12 вытворчых аб'яднанняў, якія дзейнічалі ва ўмовах гасп. разліку. Лічылася, што новая структурная адзінка будзе менш забюракратызаваная. 3 кастр. 1931 Палажэнне аб ВСНГ БССР прадугледжвала перадачу яму кіраўніцтва ВНУ, тэхнікумамі, школамі ФЗН, якія рыхтавалі кадры для прам-сці. Аднак у пачатку 1930-х гадоў ва ўмовах узмацнення адм.-камандных метадаў у эканоміцы адбылася канцэнтрацыя кіравання прам-сцю ў Маскве. 25.12.1931 ЦК ВКП(б) прыняў рашэнне, у адпаведнасці з якім ВСНГ СССР рэарганізаваны ў Наркамат цяжкай прам-сці. Саюзным рэспублікам прапанавалася пераўтварыць свае ВСНГ у наркаматы лёгкай прам-сці. 3.4.1932 ВСНГ БССР рэарганізаваны ў Наркамат легкай прам-сці БССР. Старшыні ВСНГ БССР. А. С. Карпешын (1923—24), А. Я. Калнін (1924—26), С. В. Карп (1926—29), Г. П. Грысевіч (1929—31).

*Літ* История государства и права Белорусской ССР Т. 1 Мн, 1970 *Т С Процька*

**ВЫШЭ́ЙШЫЯ КУ́РСЫ БЕЛАРУСАЗНА́ЎСТВА.** Існавалі са снеж. 1923 да ліп. 1927 у Мінску. Рыхтавалі выкладчыкаў беларусазнаўства для тэхнікумаў, рабфакаў і 7-гадовых школ, займаліся павышэннем кваліфікацыі настаўнікаў. Тэрмін навучання 1 год. На курсах выкладаліся бел. мова (Я. Ю. Лесік), гісторыя бел. л-ры (праф. М. М. Піятуховіч), гісторыя (праф. В. Д. Дружчыц), геаграфія (М. В. Азбукін), этнаграфія (І. А. Сербаў) Беларусі, гісторыя бел. мастацтва (М. М. Шчакаціхін), педагогіка (С В. Васілеўскі), методыкі выкладання бел. мовы [К. М. Міцкевіч (Я. Колас)], бел. л-ры (праф. І. І. Замоцін), грамадазнаўства (Я. І. Каранеўскі), прыродазнаўства (праф. А. У. Фядзюшын) і інш. Загадчыкі курсаў А. А. Сянкевіч, М. А. Грамыка, А. Ю. Міцкевіч. Пераўтвораны ў Вышэйшыя курсы грамадазнаўства. *У У Грамовіч*

**ВЫШЭ́ЙШЫЯ КУ́РСЫ КАМІТЭ́ТА ДЗЯРЖА́ЎНАЙ БЯСПЕ́КІ РЭСПУ́БЛІКІ БЕЛАРУ́СЬ.** Заснаваны ў снеж. 1946 для падрыхтоўкі аператыўнага саставу органаў дзяржбяспекі СССР. У снеж. 1946 — снеж. 1954 знаходзіліся ў Львове, у снеж. 1954 — жн. 1961 — у Магілеве, са жн. 1961 — у Мінску Да 1964 функцыяніравалі як сярodняя спец. навуч. ўстанова пад умоўнай назвай «Школа № 302». Паводле распараджэння СМ СССР ад 18.9.1964 пераўтворана ў Вышэйшыя курсы КДБ пры СМ СССР (з 1978— КДБ СССР) і атрымала статус ВНУ. 15.1.1992 паводле рашэння Вярх. Савета Рэспублікі Беларусь Вышэйшыя курсы падпарадкаваны яе КДБ. З 1950-х гадоў на Вышэйшых курсах побач з падрыхтоўкай ажыццяўляліся перападрыхтоўка і павышэнне кваліфікацыі аператыўнага і кіруючага саставу для тэрытарыяльных органаў дзяржбяспекі ўсіх рэспублік СССР, у 1970—80-я гады — таксама падрыхтоўка афіцэраў запасу КДБ. З 1992 тут вядзецца падрыхтоўка, перападрыхтоўка і павышэнне кваліфікацыі аператыўнага і кіруючага саставу органаў дзяржбяспекі Рэспублікі Беларусь і шэрага рэспублік Садружнасці Незалежных Дзяржаў, падрыхтоўка афіцэраў і прапаршчыкаў пагранвойск і супрацоўнікаў мытні Беларусі. Сярод вучэбных дысцыплін — гісторыя спецслужбаў, пагранічнай аховы і мытні Сярод выкладчыкаў і навук. супрацоўнікаў — юрысты, гісторыкі, палітолагі, сацыелагі, псіхолагі, эканамісты і інш. Выкладчыкі курсаў даследуюць агульныя праблемы забеспячэння нац. бяспекі Рэспублікі Бела-

русь, гісторыі яе органаў бяспекі, шэраг спец. праблем арганізацыі і зместу дзейнасці спецслужбаў. *А. А Тозік*

**ВЫШЭ́ЙШЫЯ ПАЧАТКО́ВЫЯ ВУЧЫ́ЛІШЧЫ**, навучальныя ўстановы ў Расійскай імперыі, у т. л. на Беларусі, у пач. 20 ст. Створаны паводле Палажэння ад 25.6.1912 замест 3- і 4-класных *гарадскіх вучылішчаў*. Складаліся з 4 класаў з гадавым курсам у кожным. Былі мужчынскія, жаночыя і змешаныя. У іх прымалі дзяцей сярэдніх слаеў гарадскога і сельскага насельніцтва ва ўзросце 10—13 гадоў. Навучанне было пераважна платным.

Прадметы закон Божы, рус. мова і славеснасць, арыфметыка, асновы алгебры і геаметрыі, геаграфія, гісторыя Расіі са звесткамі па ўсеагульнай гісторыі, прыродазнаўства, фізіка, маляванне, чарчэнне, фізічныя практыкаванні, рамествы (у жаночых і змешаных — рукадзелле), замежная мова (у некаторых). Навучэнцы, якія прайшлі курс 1-га і 2-га класаў, мелі права пасля дадатковага экзамену па замежнай і стараж. мовах паступаць адпаведна ў 2-і і 3-і класы сярэдняй агульнаадукацыйнай школы. Пры вучылішчах часам былі дадатковыя класы або курсы з 1- і 2-гадовым тэрмінам навучання: педагагічныя, сельскагаспадарчыя, рамесныя, бухгалтарскія, паштова-тэлеграфныя і інш. Выпускнікі В. п. в. паступалі ў прафесійна-тэхн. навуч. установы, тыя з іх, хто скончыў пед. курсы — у настаўніцкія семінарыі.

У 5 губернях Беларусі ў 1915 было 121 В. п. в., у т. л. 92 мужчынскія, 4 жаночыя, 25 змешаных. Скасаваны паводле дэкрэта ад 16.10.1918.

*Літ* Асвета і педагагічная думка ў Беларусі Са старажытных часоў да 1917 г Мн, 1985 С 379—380, Памятная книжка Виленского учебного округа на 1915 г Вильна, 1915 С 209 *Г Р Сянькевіч*

**ВЫЯЎЛЕ́НЧАЕ МАСТА́ЦТВА**, мастацтва, у творах якога вобраз увасоблены ў бачнай рэчыўнай форме на плоскасці ці ў прасторы і не развіваецца ў часе. Да В. м. належаць жывапіс, графіка і скульптура. Самыя стараж. помнікі В. м. на тэр. Беларусі адносяцца да позняга палеаліту (касцяныя падвескі, каралі, амулеты, а таксама *арнамент* у выглядзе зігзагаў і шасціграннікаў на біўні маманта, знойдзеным на стаянцы *Юравічы*). У мезаліце арнамент стаў больш развітым, пра што сведчаць знаходкі каля Смаргоні рэчаў з рога аленя, упрыгожаных зігзагамі, нарэзкай, сеткай з косых ліній. У неаліце з паяўленнем разнастайнага керамічнага посуду яго ўпрыгожвалі зігзагамі, ромбамі, трохвугольнікамі, шматіраннікамі, зрэдку і выявамі чалавека, жывёлы (выявы чалавека і качкі на пасудзіне з неалітычных пластоў стаянкі Юравічы). Пачасціліся знаходкі падвесак, касцяных пацерак, вырабаў з бурштыну. На стаянцы *Асавец* (канец неаліту — пач. бронзавага веку) знойдзены рагавая статуэтка лася, касцяная і драўляная статуэткі чалавека. У бронзавым веку паяўляюцца медныя і бронзавыя вырабы, вядомы ўпрыгожанні з медзі, шкла, бурштыну, керамічны посуд разнастайнай формы з арнаментам. Сярод знаходак гэтага часу — медная дыядэма з бескурганнага могільніка *Рудня-Шлягіна* Веткаўскага р-на, касцяная пласціна з выявай чалавека з паселішча Азярное Любанскага р-на. У жалезным веку найбольш пашыраны керамічныя вырабы, упрыгожаныя кружкамі (знакі сонца), ромбамі і трохвугольнікамі, металічныя і шкляныя ўпрыгожанні (шпількі, бляхі, бранзалеты, падвескі, пярсцёнкі, фібулы, пацеркі). На паселішчы Абідня Быхаўскага р-на і гарадзішчы Малышкі Вілейскага р-на знойдзены бронзавыя фібулы з выемчатай эмаллю Для плямен *мілаградскай культуры* былі характэрны і гліняныя фігуркі жывёл

Да арт Выяўленчае мастацтва. Выява невядомага святога на паўднёвай сцяне ў алтарнай частцы Полацкай Спаса-Ефрасіннеўскай царквы 12 ст

Да арт Выяўленчае мастацтва. П Сергіевіч Скарына ў рабочым кабінеце 1960



Развіццю В. м. на Беларусі значна паспрыяла прыняцце хрысціянства. В. м. 9—13 ст. на тэр. Беларусі мела свае асаблівасці, якія найбольш праявіліся ў Полацкай зямлі, дзе ў пач. 12 ст. склалася самабытная школа дойлідства, жывапісу, скульптуры, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Першыя хрысціянскія храмы тут мелі фрэскавыя размалёўкі. Самыя стараж. фрэскі *Полацкага Сафійскага сабора* (11 ст.), як і фрэскі Полацкай Спаса-Ефрасіннеўскай царквы Спаса-Ефрасіннеўскага манастыра (12 ст.) створаны пад уплывам візантыйскага мастацтва; у фрэсках храма-пахавальні Спаса-Ефрасіннеўскага манастыра адчуваюцца рысы раманскага стылю, пераасэнсаванага мясц. майстрамі. Фрэскамі былі ўпрыгожаны таксама *Гродзенская Барысаглебская царква, Віцебская царква Звеставання* (абедзве 12 ст.). Да 11—12 ст. адносіцца ўзнікненне арыгінальнай дробнай пластыкі, шахматных фігурак у выглядзе конусаў, цыліндраў, а таксама каменныя ці касцяныя шахматы з «тварамі» (ферзь з Лукомля, барабаншчык з Ваўкавыска і інш.). Паявіліся і *абразкі каменныя*, якія насілі на грудзях (рэльеф «Канстанцін і Алена», 12—13 ст. з Полацка, двухбаковы абразок «Петр. Маці Боская», 13 ст. з Мінска). У гэтых творах праяўляюцца рысы самабытныя — па майстэрску спалучаюцца самабытныя рысы са стараж.-рус., візантыйскім і раманскім мастацтвам.

З 2-й пал. 13 ст складваюцца асн. асаблівасці бел. мастацтва, для якога характэрна цесная сувязь з усходнеслав. культурай, перапрацоўка рысаў стараж.-рус., візантыйскага, заходнееўрап. В. м., іх спалучэнне з традыцыямі нар. мастацтва, развіццё рэалістычных рысаў. Тагачасных помнікаў манументальнага жывапісу на Беларусі не захавалася, хоць пра іх існаванне сведчаць архіўныя крыніцы. Затое вядома, што бел. майстры аздаблялі храмы ў Кракаве, Любліне, Гнезне. Іканапіс і кніжная мініяцюра Беларусі 14—16 ст. у параўнанні з візантыйскім і стараж.-рускім былі менш звязаны канонам. Мастакі часта выкарыстоўвалі фальклорныя вобразы, многія персанажы мелі простанароднае аблічча. У адрозненне ад плоскаснага праваслаўнага абраза для Беларусі больш характэрны пластычныя арнаментальныя матывы ў залочаных разных фонах, на выявах німбаў, выкарыстанне драўляных накладак. «Маці Боская Замілаванне» з Маларыты (14—15 ст), «Маці Боская Адзігітрыя» з Слуцкага р-на (канец 15 — пач. 16 ст), «Маці Боская Адзігітрыя Смаленская» з в. Дубянец Столінскага р-на (16 ст.). З сярэдзіны 16 ст. бел. іканапіс развіваецца па шляху большай канкрэтызацыі вобраза, у ім адчуваюцца рысы мастацтва *Адраджэння*, імкненне да аб'емнай перадачы твараў

і рук, фарміруецца беларуская іканапісная школа.

Пад уплывам Адраджэння з яго цікавасцю да чалавека звязана ўзнікненне і пашырэнне ў В. м. Беларусі партрэтнага жанру. Так, створаныя ў гэты час невядомымі аўтарамі выявы Аляксандра Хадкевіча і Іосіфа Солтана (Супрасльскі манастыр Звеставання) маюць рысы славяна-візантыйскага іканапісу (гл. *Парсуна*). Бел. магнаты для стварэння партрэтных галерэй сваіх родаў часам запрашалі заходнееўрапейскіх мастакоў, але часцей іх стваралі мясц. майстры. Парадныя партрэты часцей пісаліся з натуры, пры яе адсутнасці — па ўяўленні ці на падставе розных крыніц, яны мелі разнастайныя кампазіцыі (у рост, пагрудную, пакаленную, паясную). У многіх з іх прасочваюцца рысы рэнесансу нямецкага (партрэт Юрыя Радзівіла, пач. 17 ст., невяд. мастак) і італьянскага (партрэт кардынала Ежы Радзівіла, канец 16 ст., невяд. мастак).

Паяўленне аб'ёмнай скульптуры на Беларусі звязана з традыцыйнай нар. разьбой па дрэве. Пашырэнню гэтага віду мастацтва спрыяла актыўнае будаўніцтва каталіцкіх касцёлаў, кляштараў і капліц, дзе скульптура цесна звязана з архітэктурай і рознымі яе стылямі. У каталіцкіх храмах 13—15 ст. ствараліся алтары-рэтаблі — шматфігурныя жывапісна-скульптурныя ансамблі або асобныя скульптуры з характэрнай для готыкі эмацыянальнай напружанасцю, выяўленай у экспрэсіўных жэстах, паваротах фігур (Марыя Магдалена, Іаан Багаслоў, 15 ст., Гродзенская вобл.). Пад уплывам Адраджэння гэтыя алтары замяняліся прысценнымі алтарамі з парнымі скульптурамі. Ва ўзаемадзеянні мастацкіх кірункаў адбываецца станаўленне мясц. школы разьбы па дрэве, развіваюцца рэалістычныя тэндэнцыі.

Асноўныя жанры і тэхнікі бел. графікі да 16 ст. найбольш дасканала выявіліся ў мініяцюрах *рукапіснай кнігі*. Са з'яўленнем друкаванай кнігі ўзнікаюць ілюстрацыі, зробленыя ў тэхніцы ксілаграфіі, пазней — гравюры на метале. На гэты час прыпадае дзейнасць выдатнага асветніка, першадрукара і мастака Ф. Скарыны, у кнігах якога змешчана вял. колькасць ксілаграфічных кампазіцый на рэлігійныя тэмы. У кнігах, што выдаваліся ў 16 ст. ў друкарнях Беларусі, таксама пераважалі ілюстрацыі-ксілаграфіі. Афармiцельскія традыцыі Скарыны прадоўжаны і развіты ў выданнях С. *Буднага* («Евангелле», 1570-я гады), П. *Мсціслаўца* («Евангелле», 1575).

Да арт. Выяўленчае мастацтва. К. Кастравіцкі (Карусь Каганец). Тып беларуса. 1907 БДАМЛіМ.

У насценным храмавым манументальным жывапісе 16—1-й пал. 17 ст. адчуваецца імкненне да перадачы аб'ёму і перспектывы, да большай канкрэтнасці ў паказе чалавека і навакольнай абстаноўкі (размалёўкі Куцеінскага Богаяўленскага манастыра каля Оршы, Богаяўленскага сабора ў Магілёве). Тыя ж тэндэнцыі ўласцівыя і тагачаснаму бел. іканапісу («Тройца Старазапаветная», в. Дастоева Іванаўскага р-на). Жанравыя этнагр. элементы часам надаюць абразам *нац. каларыт* («*Маці Боская Адзігітрыя* Неўвядальны цвет», в. Басценавічы Мсціслаўскага р-на). З'яўляюцца і падпісаныя абразы (Пётр Яўсеевіч з Галынца, «Нараджэнне Багародзіцы», 1649). У праваслаўных храмах шырокае развіццё атрымаў іканастас — высокая алтарная перагародка з радамі абразоў (у бел. іканастасе найчасцей 4 рады). Асаблівую папулярнасць у гэты час набывае т. зв. *партрэт сармацкі*, у якім павінны былі ўслаўляцца і падкрэслівацца знатнасць, багацце, высокае грамадскае становішча чалавека. Таму паказвалі асобу ва ўрачыстай позе, у парадным адзенні, з атрыбутамі ўлады (булавой, жазлом, ключом), часам нават рабілі надпісы пра асобу і ставілі подпісы аўтараў. Такія партрэты малявалі замежныя жывапісцы і мясц. майстры. Вылучаецца напісаная ў 1630-я гады невядомым гродзенскім мастаком серыя партрэтаў: аканома г. Гродна Крыштофа Весялоўскага, яго жонкі Аляксандры і іх прыёмнай дачкі Грызельды Сапегі. Вядучым відам графікі заставалася кніжная гравюра, аднак у ёй зараджаюцца рысы жанравасці (ксілаграфія «Нараджэнне Хрыста», ілюстрацыя да «Трафалагіёна», Куцейна, 1647). Ілюстраваліся кнігі і гравюрамі на медзі (Т. Макоўскі). У тагачаснай бел. скульптуры суіснавалі розныя тэндэнцыі: захоўваюцца рэнесансавыя рысы з выкарыстаннем мясц. тыпажу, але паяўляюцца і прыёмы *маньерызму* — выцягнутыя прапорцыі, манерны нахіл галавы (Марыя і Іаан Багаслоў з касцёла Архангела Міхаіла ў Навагрудку, 17 ст.). У алтарных комплексах часам суседнічалі творы жывапісу, скульптуры, дэкар. разьбы і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва з рысамі Адраджэння і ранняга *барока* (алтар касцёла бернардзінцаў у в. Будслаў Мядзельскага р-на, 1633—43). Значнага развіцця дасягнула мемарыяльная скульптура (рэльефы, бюсты, фігуры лежма), дзе даўжэй, чым у іншых відах мастацтва, захаваліся традыцыі рэнесансу (надмагілле Мікалая Радзівіла Сіроткі, пасля 1616, касцёл

Да арт. Выяўленчае мастацтва. Ф. Рушчыц. Пустка (Асенні вецер). 1901.

езуітаў у Нясвіжы). Але і сюды паступова пранікалі рысы маньерызму і барока: кампазіцыя ўскладнялася, скульптурны дэкор станавіўся больш разнастайным (надмагілле Сапегаў з касцёла Св. Міхаіла ў Вільні, канец 16—1-я пал. 17 ст.).

У 2-й пал. 17 — пач. 18 ст. на змену рэнесансу ў бел. мастацтве прыйшоў стыль *барока*, які тут набыў адметную своеасаблівасць. У манументальным жывапісе паяўляюцца шматфігурныя кампазіцыі, фігуры якіх пададзены ў руху, вобразы набліжаюцца да простанародных (размалёўка Траецкай царквы Маркава манастыра ў Віцебску П. Ігнатовіча, 1691, не захаваўся). У іканапісе адбываецца ўсё большы адыход ад візантыйска-старажытнарус. канонаў і набліжэнне да прыёмаў заходнееўрап. В. м. У якасці ўзораў для абразоў выкарыстоўваліся і гравюры бел., укр. і зах.-еўрап. старадрукаваных кніг («Успенне», апошняя чвэрць 17 ст., Крычаў; «Нараджэнне Хрыста», 2-я пал. 17 ст., Пружаны). Павялічваецца жанравасць хрысціянскіх сюжэтаў, цікавасць да этнагр., бытавых дэталяў, пейзажу. Тыпаж часта падкрэслена мясцовы, усё больш увагі аддаецца *святлоценявой* мадэліроўцы («Маці Боская Жываносная Крыніца», канец 17 — пач. 18 ст., в. Чонкі Гомельскага р-на; «Сашэсце ў пекла», 1648, Чачэрск, гл. таксама *Беларуская іканапісная школа*). У свецкім жывапісе па-ранейшаму вядучае месца займае партрэт. Асаблівае месца належыць рыцарскаму партрэту. Развіваецца *партрэт пахавальны*, выкананы алеем на метале (партрэт Аляксандра Пацея, 2-я пал. 17 — пач. 18 ст.). Як і ў папярэднія часы, на Беларусі часта працуюць замежныя мастакі. У творчасці мясц. мастакоў адчуваецца ўплыў зах.-еўрап. мастацтва ў кампазіцыі твора, перадачы перспектывы, але стылістычныя прыёмы традыцыйныя: скаванасць позы, дэкаратыўнасць, дакладная перадача ўпрыгожанняў, дэталяў адзення (партрэт Аляксандра Астрожскага, 2-я пал. 17 ст., невяд. мастак). Зрэдку адчуваецца імкненне адысці ад парадпасці і стварыць рэалістычны вобраз з захаваннем яго індывідуальнасці (партрэт Андрэя Завішы, 1676, невяд. мастак). Людзі, што памерлі да часу напісання карціны, на партрэтах паказаны ў касцюмах свайго часу. Характэрная прыкмета такіх твораў — наяўнасць герба і надпісу на скрутку. Рысы барока пранікаюць і ў графіку, узмацняюцца іх рэалістычныя тэндэнцыі. Гравюры часцей робяцца на метале (у асн. на медзі). Большасць тагачасных гравёраў звязана з *Віленскай акадэмічнай друкарняй* (М.Шымкевіч, М. Сімкевіч, М. Вашчанка і інш.). Адным з найб. вядомых аўтараў станковай гравюры на медзі і кніжнай ілюстрацыі быў А. Тарасевіч. Для яго кампазіцый характэрны жанравасць і рэалістычныя рысы [ілюстрацыі да кнігі «Малітвы і службы Маці Боскай Марыі» («Разарыум...»), 1672, гравюра на медзі]. Прыёмы барока адчуваюцца і ў створаных ім партрэтах (партрэт мінскага харужага Казіміра Клакоцкага, 1685, гравюра на медзі). Рэалістычныя партрэты з аздобамі ў стылі барока стварaў і яго брат — Л. Тарасевіч (партрэт ашмянскага прыстольніка Георгія Зямлі, канец 17 ст., гравюра на медзі). Да батальнага жанру звяртаўся Л. Крышчановіч («Хацінская бітва», 2-я пал. 17 ст., гравюра на медзі). Як і ў папярэднія часы, на Беларусі часам працавалі замежныя мастакі, а бел. гравёры — у Маскве (куцеінскія гравёры), на Украіне (Л. Тарасевіч). Уплыў барока адчуваўся і ў бел. скульптуры. Рэалістычныя рысы прасочваюцца ў скульптурных творах, што ўпрыгожвалі інтэр'еры касцёлаў (Святы Дамінік з Міхайлаўскага касцёла дамініканцаў у Навагрудку, 2-я пал. 17 ст.; анёл з калонай з Траецкага касцёла ў г. п. Шарашова Пружанскага р-на, сярэдзіна 17 ст.).

Да арт. **Выяўленчае мастацтва.** Мініяцюра «Евангеліст Матфей» з «Евангелля», выдадзенага Мамонічамі. Вільня. 1575.

У 2-й пал. 18 ст. ў В. м. пранікаюць рысы класіцызму. У манументальных размалёўках усё больш адчуваецца глыбіня прасторы, фігуры паказаны ў руху, у складаных ракурсах і паваротах; асаблівая ўвага звяртаецца на позы і жэсты, у якіх прысутнічае характэрная для барока патэтыка, тэатральнасць (фрэскі касцёла кармелітаў у Мсціславе, Станіславаўскага касцёла ў Магілёве 18 ст.). Паяўляюцца размалёўкі з больш лаканічнымі кампазіцыямі (размалёўкі касцёла езуітаў у Нясвіжы і фарнага касцёла езуітаў у Гродне). У царкве Раства Багародзіцы ў Слаўгарадзе (канец 18 ст.) размалёўкі ў традыцыях барока суседнічаюць з кампазіцыямі ў стылі ранняга класіцызму. У іканапісе таго часу ўсё больш адчуваецца ўплыў свецкага жывапісу Зах. Еўропы («Цалаванне Іакіма і Ганны», «Пакланенне вешчуноў» з в. Басценавічы). Паяўляюцца абразы, напісаныя з выкарыстаннем прыёмаў барока («Хрыстос на троне», «Вялікі Архірэй» з Мікалаеўскай царквы на могілках у Пінску), гравюр бел. і ўкр. старадрукаваных кніг [манаграміст М. В. Мікола з Пакроўскай царквы Маладзечна, 1751; «Маці Боская Адзігітрыя. Уваскрэсенне» (двухбаковы абраз) з Пакроўскай царквы

Да арт. **Выяўленчае мастацтва.** С. Каткова. Беларускі нацюрморт. 1971.

в. Чыжэвічы Салігорскага р-на, 1766]. Усё больш адчуваецца ўплыў на іканапіс нар. мастацтва («Нараджэнне Хрыста» з в. Латыгава Чашніцкага р-на, 1746). У 2-й пал. 18 ст. абразы сталі ствараць не толькі на дрэве, але і на палатне. Парадны партрэт па-ранейшаму ўслаўляў і ўзвялічваў адлюстраваных асоб урачыстасцю позы, эфектнымі драпіроўкамі (партрэт Януша Вішнявецкага, сярэдзіна 18 ст., невяд. мастак; партрэт Тэафіліі Вішнявецкай, 1753, невяд. мастак). Працягваюцца традыцыі і рыцарскага партрэта (партрэт Януша Антонія Вішнявецкага, 2-я чвэрць 18 ст., невяд. мастак). У партрэтах сярэдзіны 18 ст. адчуваецца і ўплыў ракако (партрэты Міхала Казіміра Агінскага, Ганны Разіны Лішэўскай, 1755, выкладчыкаў Полацкай езуіцкай акадэміі). Графіка 18 ст. прадстаўлена рознымі відамі і жанрамі. У Вільні мастакі Ф. Бальцэвіч, І. Пятроўскі ствараюць партрэты, экслібрысы. З Нясвіжам звязана творчасць Г. Ляйбовіча, аўтара партрэтаў Радзівілаў, выкананых у тэхніцы гравюры на медзі. Вял. цікавасць мае нар. лубок — гравюры на дрэве і метале, часам расфарбаваныя акварэллю, адметныя прастатой і даступнасцю вобразаў. Станковая графіка прадстаўлена гар. пейзажамі, сюжэтнымі кампазіцыямі, паяўляюцца новыя тэхнікі — афорт, акватынта. У бел. скульптуры адбываецца росквіт барока з характэрным для яго імкненнем да пышнасці, эмацыянальнай узнёсласці, эфектнасці поз, жэстаў, рухаў (галоўны алтар езуіцкага касцёла ў Гродне Яна Хрысціяна Шміта з памочнікамі, 1736—38). У бел. скульптуры ўсё больш адчуваецца ўплыў нар. мастацтва, мясц. традыцый (Хрыстос перад Пілатам, 18 ст.). У сярэдзіне 18 ст. зараджаюцца рысы ракако (алтар у касцёле бернардзінак у Слоніме Іагана Хедэля, 1751—64), часам спалучаюцца прыёмы ракако і барока (анёл з в. Сцяпянка Жабінкаўскага р-на), але рысы барока захоўваюцца ў скульптуры да канца 18 ст.

У 1-й пал. 19 ст. бел. В. м. набывае свецкі характар, развіваецца пад уплывам класіцызму і рамантызму. У творчасці многіх жывапісцаў спалучаюцца абедзве тэндэнцыі (І. Аляшкевіч, В. Ваньковіч, Я. Дамель). Жывапісцы звяртаюцца да самых розных жанраў: гістарычнага (Ф. Смуглевіч, Дамель), батальнага (Я. Сухадольскі), бытавога (К. Русецкі, К. Кукевіч, Ю. Карчэўскі), пейзажа (В. Дмахоўскі, І. Хруцкі), нацюрморта (Хруцкі). Асабліва вял. поспехаў дасягнулі бел. партрэтысты (Аляшкевіч, Ю. Пешка, Ваньковіч, С. Заранка, Хруцкі). Іх работы прыцягваюць увагу цікавасцю да ўнутранага свету чалавека, яго псіхалагічнага стану. У партрэтным жанры пераважаюць рысы рамантызму. У бел. жывапісе ўсё больш адчуваецца імкненне мастакоў да праўдзівай перадачы рэчаіснасці. У манументальным жывапісе праяўляліся ўплывы класіцызму (размалёўка касцёла Св. Тадэвуша ў в. Лучай Пастаўскага р-на, Варварынскай царквы ў Пінску) і рысы неаготыкі; у графічных творах — класіцызму і рамантызму. З 1830-х гадоў мастацтва графікаў набывае рэалістычныя рысы, асабліва ў творах Кукевіча, Н. Орды, М. Кулешы і інш. Пашыраюцца і віды графікі: станковая гравюра, нар. лубок, кніжная гравюра, літаграфія (Кулеша, Ю. Азямблоўскі, К. Бахматовіч). У скульптуры вядучым стылем стаў класіцызм. Яго прадстаўнікі (Е. Ельскі, Р. Слізень) звярталіся да круглай скульптуры, рэльефу, дробнай пластыкі, стваралі партрэты, рэлігійныя кампазіцыі. Але ў манументальна-дэкаратыўнай і драўлянай культавай скульптуры яшчэ доўга захоўваліся традыцыі барока і ракако. У 1860—90-я гады адбываецца далейшая дэмакратызацыя В. м., умацаванне рэалістычных прынцыпаў. Гэтыя тэндэнцыі найперш выявіліся ў бел. станковым жывапісе і графіцы. У гістарычных жанрах аўтары звяртаюцца да тэм далёкага мінулага Беларусі (К. Альхімовіч, Я. Манюшка). У цэнтры ўвагі прадстаўнікоў бытавога жанру быў жыццёва пераканаўчы, праўдзівы вобраз селяніна (Альхімовіч, Н. Сіліванові). Пейзажысты імкнуліся паказаць прыгажосць роднай зямлі, знайсці паэзію ў звычайным (А. Гараўскі, М. Атрыганьеў). У партрэтах павялічваецца цікавасць мастакоў да перадачы псіхал. стану (Гараўскі, Сілівановіч, А. Ромер, Русецкі). Станковая скульптура развівалася пад уплывам позняга класіцызму і акадэмізму, але і сюды паступова пранікалі рысы рэалізму. Побач з традыцыйнымі алегарычнымі, міфалагічнымі вобразамі трапляюцца выявы сялян, гіст. асоб (Г. Дмахоўскі, Ромер, А. Скірмунт). Эмацыянальнай выразнасцю і непасрэднасцю адметныя многія творы культавай драўлянай скульптуры, якая абапіраецца на традыцыі нар. мастацтва (Юрый Пабеданосец, 2-я пал. 19 ст., в. Забалаць Воранаўскага р-на).

Для бел. культуры канца 19 — пач. 20 ст. характэрна імкненне да стварэння нац. мастацкай школы, да нац. своеасаблівасці ў мастацтве. Актывізацыя мастацкага жыцця спрыяла ўзнікненню таварыстваў, арганізацыі выставак. У гарадах адкрываюцца прыватныя школы малявання, у т. л. вядомая школа Ю. Пэна ў Віцебску. В. м. гэтага перыяду вельмі шматграннае. Паглыбляюцца сац. матывы, творы больш эмацыянальна выразныя, асаблівая ўвага звяртаецца на каларыт, лінію, фактуру, сілуэт. У станковым жывапісе мастакоў часцей цікавяць пейзаж (Ф. Рушчыц, В. Бялыніцкі-Біруля, С. Жукоўскі), бытавы жанр, партрэт (Пэн, Я. Кругер, Л. Альпяровіч); у манументальным мастацтве — мазаіка, вітраж. У кампазіцыях адчуваецца ўплыў мадэрна, фальклору (мазаіка Пакроўскага сабора ў Баранавічах, 1902—11, мазаічнае маёлікавае пано на фасадзе будынка б. зямельнага банка ў Віцебску, 1917). З узнікненнем нац. тэатра ўдасканальвалася і тэатр. дэкарацыя, дзе мастакі імкнуліся дакладна паказаць побыт бел. народа, асаблівую ўвагу звярталі на касцюм (І. Буйніцкі). У гэты перыяд асаблівага росквіту дасягнула графіка, якая вызначалася дэмакратычнасцю, імкненнем да стварэння нац. вобразаў. Яна прадстаўлена станковымі творамі, кніжнай ілюстрацыяй, сатыр. малюнкамі, плакатам (К. Каганец, Я. Драздовіч, С. Богуш-Сестранцэвіч, А. Каменскі). У скульптуры адчувальны ўплыў імпрэсіянізму і мадэрна, развіваюцца жанры партрэта, бытавы і анімалістычны (В. Бубноўскі, Я. Тышынскі, К. Змігродзкі).

Паслярэвалюцыйны перыяд і 1920-я гады — час пошукаў новых шляхоў у В. м. У залежнасці ад творчых памкненняў мастакі аб'ядноўваюцца ў творчыя групоўкі, удзельнічаюць у выстаўках якія сталі важнай часткай маст. жыцця рэспублікі. Ідзе актыўная барацьба новага са старым, узнікаюць самыя разнастайныя плыні, кірункі. Прадстаўнікам авангардызму («Сцвярджальнікі новага мастацтва» — К. Малевіч, М. Шагал, Л. Лісіцкі, У. Стрэмінскі) уласціва імкненне да абнаўлення мастацтва, разрыў з традыцыямі. Самабытнасцю, цікавасцю да этнаграфіі, фальклору, жаданнем знайсці новыя сродкі выразнасці вызначаецца творчасць М. Філіповіча. Для жывапісу 1920—30-х гадоў характэрны тэматычная карціна (В. Волкаў, І. Ахрэмчык, Я. Зайцаў, А. Шаўчэнка, М. Манасзон, Я. Ціхановіч), імкненне па-новаму адлюстраваць рэчаіснасць, распрацоўка тэмы рэвалюцыі і грамадзянскай вайны. Абапіраючыся на рэалістычныя традыцыі мастацтва 2-й пал. 19 ст., мастакі ствараюць палотны ў духу т. зв. сацыяліст. рэалізму — вядучага кірунку ў сав. В. м. з 1930-х гадоў. Важнае месца ў жывапісе належала партрэту (Волкаў, Ахрэмчык, Філіповіч, М. Тарасікаў, М. Станюта, Р. Семашкевіч). Своеасаблівасцю манументальнага мастацтва ў першыя паслярэвалюцыйныя гады стала дэкаратыўнае пано з разнастайнымі сімваламі, супрэматычныя размалёўкі (Шагал, Малевіч), упрыгожванні вуліцы ў святочныя дні. У 1920—30-я гады ў грамадскіх будынках з'явіліся манументальныя размалёўкі, створаныя з улікам вопыту фрэсак стараж. майстроў.

Тэатральна-дэкарацыйнае мастацтва развівалася ў рэалістычным (А. Марыкс, К. Елісееў) і рамантычным (В. Волкаў) кірунках, а таксама ў традыцыях нар. творчасці (Л. Кроль). Атрымалі пашырэнне агітацыйны плакат, газетная і часопісная графіка, сатыр. малюнкі (Драздовіч, К. Урублеўскі, П. Гуткоўскі, А. Ахол-Вало), станковая гравюра (А. Астаповіч, А. Тычына), кніжная ілюстрацыя (Б. Малкін, Я. Мінін, В. Ціхановіч). Мастакі працуюць у тэхніках лінагравюры, ксілаграфіі, афорта. У развіцці скульптуры пэўную ролю адыграў т. зв. ленінскі план манументальнай прапаганды, паводле якога ў першыя паслярэвалюцыйныя гады былі пастаўлены часовыя помнікі К. Марксу ў Мінску

(скульптар Елісееў), І. Песталоці ў Віцебску (скульптар А. Бразер). У пошуках новых сродкаў выразнасці аўтары звярталіся да кубізму (помнік рэвалюцыянеру А. Краснапольскаму ў Мінску, скульптар М. Цеханоўскі), да нар. традыцый, спалучаючы іх з экспрэсіяй, тагачасным светаадчуваннем (А. Грубэ). Развіваецца і скульптурны партрэт (Бразер, З. Азгур). У 1930-я гады ствараюцца шматфігурныя кампазіцыі (Л. Карпенка, А. Жораў, А. Арлоў), новыя манументальныя помнікі (Ф. Э. Дзяржынскаму ў Дзяржынску, У. І. Леніну ў Барысаве, скульптар Грубэ). Састаўной часткай бел. мастацтва з'яўлялася творчасць мастакоў, што ў 1920—30-я гады жылі і працавалі ў Зах. Беларусі (П. Сергіевіч, Драздовіч, М. Сеўрук), творы якіх адметныя рамантычным настроем, увагай да традыцый нар. мастацтва, своеасаблівасцю творчай манеры.

У гады Вял. Айч. вайны многія бел. майстры сталі ўдзельнікамі ваен. дзеянняў, таму вял. каштоўнасць маюць іх замалёўкі, зробленыя на фронце, у партыз. атрадах. Суровая праўда вайны, мужнасць і стойкасць народа, барацьба партызан адлюстраваны ў тэматычных карцінах Ахрэмчыка, Зайцава, М. Абрыньбы. Значнае месца ў мастацтве гэтага часу займаў партрэт, дзе ў жывапісе, графіцы і скульптуры створаны вобразы ўдзельнікаў вайны, прадстаўнікоў інтэлігенцыі (У. Хрусталёў, Зайцаў, Ахрэмчык, Азгур, А. Бембель). У час вайны многія жывапісцы звяртаюцца да пейзажа, каб выказаць любоў да роднай зямлі (Бялыніцкі-Біруля, П. Гаўрыленка, У. Кудрэвіч). Вял. тормазам у развіцці В. м. канца 1940—50-х гадоў была сталінская палітыка і «тэорыя бесканфліктнасці». Многія тагачасныя творы набывалі пампезнасць, тэатральнасць, былі далёкія ад рэальнасці, для іх характэрна лакіроўка рэчаіснасці, параднасць, трафарэтнасць маст. вырашэння. Гэта асабліва відавочна ў кампазіцыях, прысвечаных І. В. Сталіну, кіраўнікам камуніст. партыі і сав. ўрада. Пры ацэнцы твораў перавага аддавалася актуальнасці тэмы, а не маст. ўвасабленню. Для В. м. ў цэлым характэрна павярхоўнасць у адлюстраванні жыцця, ілюстрацыйнасць.

У пасляваенныя гады ваен. тэматыка заставалася самай важнай у бел. мастацтве. У лепшых творах разнастайных жанраў адлюстраваны розныя грані жыцця, праўдзіва паказаны чалавек. Значнае развіццё атрымалі ўсе віды пейзажа: лірычны (Бялыніцкі-Біруля, Г. Азгур, І. Пушкоў, Кудрэвіч), абагульнены (В. Цвірка, Звінагродскі), індустрыяльны (М. Дучыц, Н. Воранаў, М. Данцыг, І. Гембіцкі), гарадскі (С. Каткоў, М. Блішч, П. Масленікаў, Тычына, Л. Лейтман), мемарыяльны (Бялыніцкі-Біруля, Л. Ран). Жанравасць, апавядальнасць, станковасць уласцівы многім творам манументальнага жывапісу і скульптуры гэтага часу. У канцы 1950 — пач. 60-х гадоў у В. м. адчуваецца жаданне адысці ад ілюстрацыйнасці і штампа, знайсці больш глыбокае вырашэнне, цікавае маст. ўвасабленне. У жывапісе

А. І. Вягелін.

пашырыўся т. зв. «суровы стыль», дзе праўдзіва, без прыхарошванняў адлюстроўвалася жыццё, творы вызначаліся глыбінёй зместу, лаканічнай выразнасцю маст. мовы (М. Савіцкі, Данцыг). 2-я пал. 1960-х — 70-я гады адметныя імкненнем мастакоў знайсці новыя жывапісныя вырашэнні, узбагаціць кампазіцыю і каларыстычную выразнасць разнастайным вырашэннем ваен. (Савіцкі, Данцыг, М. Залозны, В. Грамыка) і гістарычнай (В. Сумараў, Л. Шчамялёў, А. Марачкін, гл. таксама *Гістарычны жанр*) тэмы. Больш глыбока і шматпланава адлюстроўваецца сучаснасць, а таксама матывы фальклору (І. Стасевіч, Шчамялёў, Сумараў, Г. Вашчанка, М. Казакевіч, М. Кірэеў, А. Марачкін, З. Літвінава, А. Кузняцоў, У. Тоўсцік), развіваецца партрэт (Шчамялёў, В. Сахненка, У. Стальмашонак), пейзаж (Дз. Алейнік, Грамыка, Данцыг, С. Каткоў, Б. Аракчэеў), нацюрморт (В. Жолтак, С. Лі, Я. Радзялоўская, С. Каткова). Манументальны жывапіс набывае выразную мастацкую мову: дынамізм кампазіцыі, лаканізм, абагульненасць, экспрэсіўнасць (Вашчанка, Стальмашонак, Кішчанка, Літвінава, Каткова). Графікі ў тэматычных серыях паказваюць сучасныя падзеі або звяртаюцца да гісторыі, выкарыстоўваючы розныя тэхнікі — афорт, літаграфію, лінагравюру, манатыпію, а таксама вугаль, пастэль, акварэль. У кніжнай ілюстрацыі аўтары ствараюць кампазіцыі, якія перадаюць дух літаратурнага твора (А. Кашкурэвіч, У. Басалыга, М. Басалыга, Г. Паплаўскі, Н. Паплаўская, А. Паслядовіч, П. Дурчын, С. Герус, В. Шаранговіч, А. Лось, Б. Забораў, Малкін, Т. Беразінская, Селяшчук, А. Лапіцкая, М. Купава, Ю. Герасіменка). Бел. скульптары 2-й пал. 1960—90-х гадоў разам з архітэктарамі прымаюць удзел у стварэнні мемарыяльных ансамбляў у памяць загінуўшых у Вял. Айч. вайне, ствараюць помнікі дзеячам гісторыі, культуры, працуюць у галіне станковай скульптуры, пашыраючы тэматыку, звяртаючыся да новых сродкаў пластычнай выразнасці (Бембель, Азгур, А. Анікейчык, Л. Гумілеўскі, Г. Мурамцаў, І. Міско, М. Рыжанкоў, С. Селіханаў, С. Вакар, С. Гарбунова, А. Шатэрнік, У. Слабодчыкаў, А. Дранец, В. Янушкевіч, П. Лук, М. Інькоў, М. Маліноўскі). Для бел. мастацтва 1980 — пач. 1990-х г. характэрна разнастайнасць і глыбіня творчых пошукаў. Творы В. м. адметныя шматпланавасцю, асацыятыўнасцю, метафарычнасцю, сімволікай маст. мовы, дэкаратыўнасцю колеру і ліній, рытмічнай выразнасцю, жаданнем пашырыць звыклыя межы відаў і жанраў мастацтва. Па-новаму ўспрымаюцца традыцыі мінулага, усё больш праяўляецца цікавасць да нац. гісторыі, глыбей асэнсоўваецца сучаснасць.

*Літ.:* Всеобщая история искусств. Т. 2, кн. 1. М., 1960, т. 4. М., 1963; Жывапіс Беларусі XII — XVIII стст.: [Альбом]. Мн., 1980; Д р о б а ў Л. Н. Беларускія мастакі XIX ст. Мн., 1971; Гісторыя беларускага мастацтва: У 6 т. Т. 1—5. Мн., 1987—92; Искусство Белорусской ССР: [Альбом]. Л., 1972; Мастацтва Савецкай Беларусі: [Фотаальбом]. Мн., 1968; П е т е р с о н Э. А. Портретная скульптура Советской Белоруссии. Мн., 1982; Пластыка Беларусі XII—XVIII стст.. [Альбом]. Мн., 1983; Тэмперны жывапіс Беларусі канца XV — XVIII стст. у зборы Дзяржаўнага мастацкага музея БССР: Кат. / Аўт.-склад. Н. Ф. Высоцкая. Мн., 1986; Франциск Скорина — белорусский гуманист, просветитель, первопечатник. Мн., 1989; Художники Советской Белоруссии. Мн., 1976; Ш м а т а ў В. Ф. Беларуская кніжная гравюра XVI—XVIII стст. Мн., 1984. *А. Дз. Шапашнікава.*

**ВЯГЕ́ЛІН** Аляксандр Іванавіч [1800—59 (1860?)], удзельнік рэв. руху 1820-х г. З дваран Валынскай губ. Выхоўваўся ў 1-м кадэцкім корпусе, адкуль выпушчаны ў войска прапаршчыкам (1818). З 1822 паручнік, з 1823 у Літоўскім піянерным батальёне (Беластоцкая вобл.). Разам з К. Г. *Ігельстромам* (сваім стрыечным братам), А. *Міцкевічам* і інш. ўваходзіў у навагрудскую масонскую ложу «Вузел адзінства». Адзін з арганізатараў тайнага таварыства «*Ваенныя сябры*», у якое прыняў Э. А. Пятроўскага і І. М. Пац-Памарнацкага. Удзельнік *Літоўскага піянернага батальёна выступлення 1825:* 20—23.12.1825 прысутнічаў на нарадах кіраўнікоў т-ва па падрыхтоўцы выступлення, агітаваў салдат не прысягаць Мікалаю І, 24 снеж. ў г. Браньск (цяпер мястэчка ў Польшчы) сарваў прысягу салдат сваёй роты. Спрабаваў узняць паўстанне ў інш. часцях. 26.12.1825 арыштаваны, знаходзіўся пад следствам ваенна-судовай камісіі ў Беластоку. Пазбаўлены дваранства, чыноў і прыгавораны да смяротнага пакарання, па царскай канфірмацыі (1827) на 10 гадоў сасланы на катаргу з наступным пасяленне ў Сібіры. З 1828 у Чыце, у 1830 пераведзены на Пятроўскі завод. У астрозе спрабаваў скончыць жыццё самагубствам. У 1832 датэрмінова вызвалены ад катаржных работ, у 1833 пераехаў на пасяленне ў слабаду Срэценская

Нерчынскай заводскай акругі Іркуцкай губ. Падтрымліваў сувязі з ссыльнымі дзекабрыстамі (Адоеўскімі, Валконскімі, Мураўёвымі, Нарышкінымі, Трубяцкімі і інш.). У 1837 па ўласнай просьбе накіраваны на службу радавым у Каўказскі асобны корпус. Удзельнічаў у баях з горцамі ў Дагестане і Чэчні. У 1843 у чыне прапаршчыка звольнены ў адстаўку. Жыў у Палтаве, не пазней 1857 пасяліўся ў Адэсе, дзе працаваў у аздараўленчых і дабрачынных установах.

*Літ.:* Кубалов Б. Члены «Тайного общества военных друзей» на каторге и поселении // Декабристы на каторге и в ссылке: Сб. новых материалов и ст... М., 1925; Письма А. И. Вегелина из ссылки / Сообщ. А. А. Сиверс // Былое. 1925. № 5 (33); Букчин С. К мечам рванулись наши руки: Докум. повести. 2 изд. Мн., 1985.

*В. В. Швед.*

**ВЯ́ДЗЕЦ,** Вядцо, Вятцо, былая вёска ва Ульянавіцкім сельсавеце Сенненскага р-на. Існавала да 1969. У часы ВКЛ гэта быў маёнтак, які належаў каталіцкаму касцёлу ў *Абольцах.* Паводле прывілея ад 1.7.1387, вял. князь Ягайла выдзеліў гэтаму касцёлу ворыва і 3 пляцы ў Абольцах, а таксама «возера Свеча з людзьмі». Маёнтак В. узнік, верагодна, у 15 ст. як цэнтр гэтай тэрыторыі, што ахоплівала абшар уздоўж абодвух берагоў р. Свяча (Свячанка) паміж азёрамі Сцержын (Сцержань) і Хотлінскае, на стыку сучасных Сенненскага і Чашніцкага р-наў. Феадальны двор знаходзіўся паміж сучаснымі вёскамі Малы і Вялікі Азярэцк, на паўд. ускраіне азначанага абшару. Тэр. маёнтка на З межавала з Лукомскім княствам, на Пд — з маёнткам Азярэцк, на Пн — з маёнткамі Застарынне і Езяніца, на У — з маёнткамі Сянно і *Беліца.* В. адносіўся да Аболецкага, з 1565 — да Аршанскага пав. Паміж уладальнікамі маёнткаў В. і Сянно цягнулася доўгая спрэчка за межы уладанняў. У 1542—45 спрэчку вялі аболецкі ксёндз Ян Гайка (Гайко) і кн. Дзмітрый Раманавіч Друцкі-Відуніцкі, айчым і апякун малалетняга кн. Рыгора Сенскага. Апошнія абвінавачвалі ксяндза ў тым, што яго падданыя перайшлі спрадвечную мяжу па р. Рагозніца і занялі землі сенненскага с. Канева. У 1545 мяжа была нанова размечана паміж воз. Сцержын і ўрочышчам Блізнец (на Пн ад в. Замошша, дзе сыходзіліся межы В., Сянна і Ульянавічаў, што належалі да Беліцы). Аднак у пач. 17 ст. спрэчкі ўзнавіліся паміж новымі ўладальнікамі: з аднаго боку, ксяндзом Бенядзіктам Войнай (пазней біскуп віленскі) і яго пераемнікам Мікалаем Сівіцкім, з другога — Астафіем Курчам, нашчадкам кн. Сенскіх. Вядзецкія падданыя зноў секлі лес, захоплівалі сенненскія землі і нават пачалі будаваць на іх сядзібы. У 1633 пры ксяндзу Яну Хрызастому Разнятоўскім зноў праведзена межаванне каралеўскімі камісарамі. Маёнтак В. існаваў як уладанне аболецкіх ксяндзоў да 1772. Да яго была далучана тэр. маёнтка Застарынне на ПнЗ ад воз. Сцержын. У выніку 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772), паводле якога Абольцы адышлі да Расіі, новая дзярж. мяжа (уздоўж яе быў насыпаны вал, што захаваўся да нашага часу) адсекла паўн.-ўсх. частку тэр. маёнтка В. з вёскамі Дольдзева, Тор'еўка (да 1964 Казённая Торбінка, цяпер Партызаны), Новы Вядзец і Паратоўшчына (2 апошнія пазней зніклі). На частцы, якая засталася ў ВКЛ (да 1793), быў складзены ў 1790 падрабязны інвентар з апісаннем фальварка В., сёлаў Гарывец (8 двароў, 59 жыхароў), Гірын (адпаведна 6, 52), Грыбін (13, 75), Запруддзе (5, 50), Застарынне (19, 146), Куты (6, 50), Новае Сяло (14, 96), засценкаў Касцельшчына (2, 23), Малінаўшчына (3, 22), Рыбакоўшчына (3, 25), Рыжоўшчына (3, 22), Таўшчы (2, 12). Увогуле 84 гаспадаркі (632 жыхары) мелі 56 валок зямлі, 279 коней, 285 кароў і 20 цялят, 390 авечак, 58 коз, 315 свіней, 80 вуллёў пчол. Пасля далучэння да Расійскай імперыі ў 1793 маёнтак канфіскаваны ў ліку інш. уладанняў каталіцкай царквы, аднак прыхаджанам было дазволена ў тым жа годзе заснаваць у В. касцёл. В. увайшоў у Сенненскі пав. З 1861 — ва Ульянавіцкай вол. таго ж павета (зах. частка тэр. былога маёнтка ўвайшла ў Замацкую вол.). На месцы фальварка ўзнікла сяло В., тут былі касцёл і царква. У 2-й пал. 19 ст. ў В. 15 двароў, 98 жыхароў, паводле перапісу 1897, 31 двор і 158 жыхароў (1 двор належаў царкве). З 20.8. 1924 вёска В. ва Ульянавіцкім сельсавеце Сенненскага р-на. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З цягам часу заняпала.

*Літ.:* Историко-юридические материалы. Вып. 20. Витебск, 1890. С. 61—102, 315—343; Kodeks dyplomatyczny katedry i diecezji wileńskiej. T. 1. Kraków, 1948.

*В. Л. Насевіч.*

**«ВЯДОМО́СЬЦІ БРУКО́ВЭ»** («Wiadomości Brukowe», «Вулічныя весці»), сатырычны штотыднёвік, орган віленскага літаратурна-грамадскага таварыства *шубраўцаў.* Выдаваўся ў 1816—22 у Вільні на польск. мове. Першыя нумары, выдадзеныя доктарам філасофіі І. Э. Ляхніцкім, выклікалі адчувальны рэзананс у асяроддзі віленскай інтэлігенцыі. Выданне прадоўжыў К. Контрым, надаўшы яму перыядычнасць. Матэрыялы, змешчаныя ў штотыднёвіку, раскрывалі пачварнасць прыгонніцтва, высмейвалі цемрашальства, разумовую абмежаванасць, душэўную пустату, п'янства, напышлівую «еўрапейскасць» (франкаманію) мясц. абывацеляў. Аўтары «В. б.» выкрывалі шляхецкія норавы і жорсткасць прыгоннікаў, з асветніцкіх пазіцый патрабавалі роўнасці ў грамадскіх стасунках, але недастаткова цярпіма ставіліся да народных светаўяўленняў, ацэньвалі іх як з'яву больш нізкага парадку. Гэта стварала прэцэдэнт непаўнацэннасці фальклорыстычных і фалькларна-этнаграфічных прац і ўскосна стрымлівала іх публікацыю ў віленскай перыёдыцы. Актыўнымі супрацоўнікамі «В. б.» былі літаратар Л. Бароўскі, гісторык М. Балінскі, паэт і перакладчык І. Шыдлоўскі і інш. *У. І. Мархель.*

**«ВЯДОМО́СЬЦІ ГРОДЗЕ́НЬСКЕ»** («Wiadomości Grodzieńskie»), газета, орган *Таргавіцкай канфедэрацыі;* другое пасля «Газета Гродзеньска» перыядычнае выданне на тэр. Беларусі. Выдавалася ў ліст.—снеж. 1792 у Гродне на польск. мове 2 разы на тыдзень (серада, нядзеля). Кожны нумар меў дадатак фармату газеты (ін-кварта). Друкавалася ў *Гродзенскай друкарні,* хоць на старонках вядомых нумароў (зберагліся № 2 ад 21.11, № 4 ад 28.11, № 6 ад 5.12, № 7 ад 9.12, № 8 ад 12.12, № 12 ад 26.12 і дадаткі да № 2 і № 10 ад 19.12; захоўваюцца ў зборах Б-кі Ін-та літаратурных даследаванняў Польскай АН у Варшаве) адсутнічае інфармацыя пра выдаўца і друкарню. Змяшчала выключна мясцовую інфармацыю, якая ішла з рэгіёна Гродна і датычылася дзейнасці Генеральнай Канфедэрацыі Абодвух Народаў (польск. і літ. канфедэрацыі таргавічан). Газета мела 2 раздзелы: «Генеральная сесія вольных абодвух з'яднаных народаў» (друкаваліся універсалы Генеральнай Канфедэрацыі Абодвух Народаў) і «Правінцыйная сесія літоўскага народу» (друкаваліся універсалы і распараджэнні, рэкамендацыі, ухваленыя на пасяджэннях Генеральнай канфедэрацыі ВКЛ). Акрамя афіцыйных матэрыялаў публікавала розныя паведамленні, звязаныя з дзейнасцю канфедэрацыі: інфармацыю пра дэлегацыю, што прыбыла з Польшчы ў Гродна са скаргаю на рус. войскі, якія занялі польскія паветы; пра загад Літоўскай канфедэрацыі аб вяртанні ў ВКЛ з Варшавы пешай літоўскай гвардыі; аб сфарміраванні Літоўскай канфедэрацыяй складу саветнікаў і прызначэнні на пасаду саветніка падскарбіи надворнага літоўскага А. Дзяконскага; пра абед і канцэрт для канфедэратаў, дадзены маршалкам Генеральнай Літоўскай канфедэрацыі А. Сапегам (№ 2); устанаўленне Генеральнай канфедэрацыі ВКЛ пра бяспеку і парадак на тэр. г. Гродна; заклік да перагляду Статута ВКЛ 1588 камісіяй на чале з Сапегам; распараджэнне паштовым службам кантраляваць карэспандэнцыю для выяўлення ў ёй фактаў антыдзярж. зместу (№ 4); універсал судовым уладам вытрымліваць «унутраны спакой»; інфармацыя пра аўдыенцыю дэлегацыі канфедэратаў у царыцы Кацярыны II у Пецярбургу; аб прыбыцці ў Гродна ген. М. Галянішчава-Кутузава (№ 6); засцярога ў адрас камісіі Літоўскага Скарбу, каб апошняя не прадавала маёнткаў жывых уладальнікаў; распараджэнне аб лакалізацыі метрык ВКЛ у кляштары св. Казіміра ў Вільні; матэрыял аб палітыцы канфедэрацыі за мяжой (адказ папы Пія VI на ноту падканцлера літоўскага І. Храптовіча) (№ 7); артыкул пра святкаванне ў Гродне імянін Кацярыны II 5 і 12.12.1792 (№ 9 ад

16 12), распараджэнні канфедэрацыі пра гарады і мяшчан, устанаўленне ў Варшаве крымінальных судоў, стварэнне дэпутацыі для распрацоўкі новай канстытуцыі (№ 12) і інш. Многія матэрыялы «В. г.» перадрукоўвалі газ. «Korespondent Warszawski» («Карэспандэнт Варшаўскі»), «Korespondent Krajowy i Zagraniczny» («Карэспандэнт краевы і замежны») і інш

*Літ* Zachmacz Z M «Wiadomości Grodzieńskie z 1792 r — nieznany organ prasowy Konfederacji Targowickiej // Rocznik zakładu narodowego im Ossolinskich Wrocław etc, 1976 T 11 *І У Саламевіч*

**ВЯ́ЗЕМСКІ** Петр Андрэевіч [12(23).7.1792, Масква — 10(22).11.1878], рускі паэт, крытык, дзярж. і грамадскі дзеяч, падарожнік па Беларусі. Князь. Удзельнік *Айчыннай вайны 1812*. Друкаваўся з 1808. Уваходзіў у літаратурнае т-ва «Арзамас», сябраваў з А. С. Пушкіным. Вялікую цікавасць уяўляюць запісныя кніжкі В., якія ен веў з 1813 (апубл. ў 1870-я гады) Сярод запісаў уражанні аб паездцы па Беларусі ў 1818· нататкі пра Брэст (мытня), Слонім (помнікі даўніны, жудаснае становішча бел. прыгоннага сялянства), Мінск (насельніцтва, культурныя ўстановы, знаходжанне Аляксандра І). Удзельнічаў у стварэнні праекта канстытуцыі, якую абяцаў Расіі Аляксандр І, і запіскі аб вызваленні сялян (1820). У 1821 за ліберальныя погляды звольнены з дзярж. службы (з 1817 быў чыноўнікам канцылярыі М. М. Навасільцава ў Варшаве) і аддадзены пад тайны нагляд паліцыі. Быў блізкі да дзекабрыстаў М. І. Тургенева, М. Ф. Арлова, А. А. Бястужава і інш. Пасля разгрому паўстання 1825 збярог партфель І. І. Пушчына, у якім знаходзіўся варыянт канстытуцыі М. М. Мураўева. У Пецярбургу і Маскве падтрымліваў сувязі з А. Міцкевічам, санеты якога перакладаў, бел. мастакамі І. І. Аляшкевічам і В. М. Ваньковічам. Член Варшаўскага таварыства сяброў навукі (1828) Пасля 1828 адышоў ад дэмакратычных прынцыпаў на пазіцыі «праваслаўя, самадзяржаўя, народнасці». З 1830 зноў на дзярж. службе. У 1856—58 таварыш міністра нар. асветы, узначальваў цэнзурнае ведамства, сенатар, член Дзярж. савета, блізкі да царскага двара

*Тв* Полн собр соч Т 1—12 Спб, 1878—96, Стихотворения Л, 1958, Записные книжки (1813—1848) М, 1863

*Літ* Гиллельсон М И П А Вяземский Жизнь и творчество Л, 1969, Букчин С В Народ, издревле нам родной Рус писатели и Белоруссия Очерки Мн, 1984 С 69—72, Бэлза С И Русско-польские литературные связи в 19 в // Вестн истории мировой культуры 1960 № 4 *С А Кузняева*

**ВЯ́ЗЕМСКІЯ**, княжацкі род у старажытнай Русі, ВКЛ, Маскоўскім вял. княстве, у Расійскай імперыі. Родапачынальнік Андрэй Уладзіміравіч Доўгая рука (каля 1190—1224), нашчадак Рурыка, які ад удзельнага горада Вязьма стаў звацца князем В. Вяземскае княства існавала ў Смаленскай зямлі, верагодна, з сярэдзіны 13 ст., у 1403 занята войскам ВКЛ Князі В. Іван Святаслававіч і Аляксандр Міхайлавіч трапілі ў палон, а Сямен і Уладзімір Мсціславічы разам са смаленскім князем Юрыем Святаслававічам з'ехалі ў Ноўгарад, адтуль перабраліся ў Маскву. Сямен В. атрымаў у валоданне палавіну г. Таржка з воласцю ў 1406 (забіты ў 1406 Юрыем Смаленскім). У далейшым В. валодалі Вяземскім княствам у якасці васалаў вял. князеў ВКЛ. Род В. моцна разгалінаваўся. Адзін з яго прадстаўнікоў, князь Міхаіл Львовіч, прымаў удзел у міжусобнай барацьбе паміж Жыгімон там Кейстутавічам і Свідрыгайлам на баку апошняга і загінуў у бітве пад Вількамірам 1435. У 1487—94 большасць князеў В. вымушаны былі прызнаць сваю васальную залежнасць ад вял. князя маскоўскага Івана III, але некаторыя захавалі вернасць ВКЛ. Сярод іх Іван Канстанцінавіч В., які ў 1495 атрымаў ад вял князя ВКЛ Аляксандра сяло Прыселле на Смаленшчыне. Аднак у 1500 і гэта яго ўладанне было захоплена Масквой. У 1-й пал. 16 ст. ў ВКЛ застаўся адзін В.— князь Іван Львовіч, які згадваецца ў 1509 як зяць смаленскага акольнічага Івана Кошкі. Пасля далучэння да Маскоўскай дзяржавы ўсей Смаленшчыны ў яго захавалася ўладанне ў Лукомскім княстве — сяло Пірошыцы і частка Лукомскага замка, верагодна, набытае праз шлюб з князеўнай Лукомскай. Як уладальнік гэтых маенткаў ен згадваецца і ў 1534. У хуткім часе памер, пакінуўшы 2 дачок, з якіх адна выйшла за полацкага баярына Івана Сяляву, а другая — за князя Івана Львовіча Баратынскага. Да іх і перайшла спадчына Івана Львовіча В. ў Лукомскім княстве. У далейшым прадстаўнікі роду В. адыгрывалі значную ролю ў паліт. і культ. жыцці Маскоўскай дзяржавы і Расійскай імперыі.

*Літ* Wolff J Kniaziowie litewsko-ruscy od konca czternastego wieku Warszawa, 1895, Петров П Н История родов русского дворянства Т. 1 Спб, 1886 *В Л Насевіч*

**ВЯ́ЗЫНКА**, гарадзішчы (2—5 ст н. э) *штрыхаванай керамікі культуры* каля в. Вязынка Маладзечанскага р-на.

Гарадзішча-1. За 100—200 м на У ад вескі, на левым беразе р. Вязынка У 1952 абследаваў К. М. Палікарповіч, даследаваў А. Р. Мітрафанаў. Напачатку гарадзішча было ўмацавана абарончай драўлянай сцяной, якая згарэла. Пазней насыпаны вал, на грэбені яго збудавана новая абарончая сцяна, таксама згарэла. Пасля трэцяга пажару пляцоўка расшырана, па краі насыпаны вал з пяску і суглінку, збудавана новая абарончая сцяна з гарызантальна пакладзеных бярвен, вертыкальна ўмацаваных слупамі. У 4—5 ст з паўн.-зах. боку гарадзішча насыпаны вал і выкапаны роў, па краі пляцоўкі і на схілы падсыпаны тоўсты пласт пяску і суглінку. У 2 будаўнічых гарызонтах выяўлены рэшткі драўляных жытлаў у ніжнім — вялікае чатырохвугольнае 3-камернае з падкovападобнымі агнішчамі; у верхнім — жытлы, верагодна, мелі слупавую канструкцыю. Каля жытлаў размяшчаліся круглыя і авальныя ямы-паграбы Знойдзены фрагменты глянцаванага і падглянцаванага посуду, абломкі венчыкаў рабрыстых і слоікападобных пасудзін, жалезны нож, сярпы,

шылы, гліняныя праслiцы, грузікі дзякоўскага тыпу. За 500 м на ПнУ ад вёскі, на левым беразе канала Вілейска-Мінскай воднай сістэмы гарадзішча-2. Знойдзена штрыхаваная кераміка, косці жывёл, абпаленыя камяні.

*Літ.:* Митрофанов А. Г. Городище в Вязынке // Материалы по археологии БССР. Мн., 1957. Т. 1; Его ж. Железный век Средней Белоруссии (VII—VI вв. до н. э.— VIII в. н. э.). Мн., 1978.

*А. Р. Мітрафанаў.*

**ВЯ́ЗЫНКА,** вёска ў Радашковіцкім сельсавеце Маладзечанскага р-на. За 40 км на ПдУ ад Маладзечна, 38 км ад Мінска, 7 км ад шашы Мінск — Маладзечна. Чыг. прыпынак на лініі Мінск — Маладзечна. 465 жыхароў, 195 двароў (1993).

Фальварак В. Мінскага пав. да 1815 належаў графам Пшаздзецкім, затым панам Замбржыцкім. У 1880—83 у С. В. Замбржыцкага фальварак арандаваў Д. А. Луцэвіч, у якога ў 1882 тут нарадзіўся сын Іван, будучы бел. паэт Янка *Купала.* У 1909 у фальварку 4 двары, 26 жыхароў. У 1920—30-я гады тут жыла бел. этнограф і фалькларыст А. І. Свіневіч, якая збірала нар. песні ў наваколлі, арганізоўвала ў Маладзечне, Радашковічах, Вільні выставы бел. тканін і нац. адзення, даследавала творчасць А. Міцкевіча. З 1920 у складзе Сярэдняй Літвы, з 1922 — Польшчы, у Маладзечанскім пав. З 1939 у БССР, з 15.1.1940 у Радашковіцкім р-не. З 25.6.1941 да 5.7.1944 акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1948 адкрыты філіял Літ. музея Я. Купалы. З 20.1.1960 у Маладзечанскім р-не. У 1970 265 жыхароў, 71 двор. У 1972 пад назвай В. аб'яднаны ў адну вёску б. фальварак, вёскі Верамейкі, Гурнавічы і Сяледчыкі. Вёска стала цэнтрам створанага купалаўскага мемарыяльнага запаведніка «Вязынка» (пл. 21 га). На яго тэр. знаходзіцца хата, у якой нарадзіўся Я. Купала, хатка дваровых, помнік паэту, валуны з высечанымі на іх радкамі яго вершаў, сажалка, крыніца, частка старога саду б. фальварка, дубовы гай, пасаджаны да 100-годдзя з дня нараджэння паэта, канцэртная эстрада, а таксама гарадзішча 2—5 ст. *Вязынка.* У вёсцы сярэдняя школа, клуб, б-ка, фельчарска-акушэрскі пункт, 2 магазіны.

*Літ.:* Пуцявінамі Янкі Купалы: Дакументы і матэрыялы. Мн., 1981. С. 46; Вязынка: Купалаўскі мемарыяльны запаведнік: [Фотаальбом]. Мн., 1982; Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: Мінская вобл. Кн. 2. Мн., 1987.

*Г. А. Каханоўскі.*

**ВЯ́ЗЫНЬ,** вёска, цэнтр сельсавета ў Вілейскім р-не, на левым беразе р. Ілія. За 22 км на ПдУ ад Вілейкі. 778 ж., 329 двароў (1993).

У 2-й пал. 15 ст. ўваходзіла ў склад вотчыны паноў Саковічаў на Пн Менскага пав. Упамінаецца ў 1473 сярод маёнткаў, якія Ю. А. Саковіч атрымаў у спадчыну. Пазней належала яго сыну Войцаху (памёр у 1522), які ад маёнтка


1


2


3

Да арт. Вязь: Статут ВКЛ. Вільня, 1588 (1, 2). «Зборнік павучанняў». Сярэдзіна 17 ст. (3).

Насілава пісаўся панам Насілоўскім, потым — сыну апошняга, ваяводу віцебскаму Юрыю Насілоўскаму (памёр у 1544). Пры ім у В. ў 1543 заснаваны касцёл і паселішча, верагодна, атрымала статус мястэчка. Упершыню як мястэчка ўпамінаецца ў 1552, калі належала ўдаве Юрыя Ядвізе Станіславаўне. У далейшым маёнткі Ю. В. Насілоўскага, у т. л. і В., падзелены паміж яго дочкамі Марынай, Шчаснай і Ядвігай. Пасля іх смерці ў канцы 16 ст. права спадчыны перайшло да іх нашчадкаў: сыноў Марыны Гурына і Яраша Воўчкаў, сына Ядвігі Яна Осціка і дачок Шчасны князёвен Маргарыты і Настассі Збаражскіх. Дачка апошняй Мар'яна выйшла за Я. Вітуньскага, які ўпамінаецца як уладальнік В. ў 1616 пры размежаванні з суседнім маёнткам Куранцом. У хуткім часе маёнтак (ці адна з яго частак) перайшоў ва ўласнасць віленскага жаночага кляштара бенедыкцінак пры касцёле св. Кацярыны. Як уласнасць бенедыкцінак упамінаецца ў 1627 і 1638 пры размежаваннях іх зямель і пры парушэнні межаў Вязынскай пушчы з боку смаленскага ваяводы А. Гасеўскага, у 1674 пры размежаванні з маёнткам віленскіх бернардзінак Рабунем. У 1721 кляштарныя маёнтак В. і фальварак Седзіца мелі спрэчныя землі з Маладзечнам і Селішчам пана Міхала Казіміра Коцела. У 1736 упамінаецца царква ў В., на якую кляштар бенедыкцінак выдзеліў паўвалокі зямлі. У 1770 адбылося яшчэ адно размежаванне з суседнімі маёнткамі Селішчам і Ляўковам. У 1791 пабудавана Успенская царква. У выніку 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) В. увайшла ў Вілейскі пав. Мінскай, з 1843 — Віленскай губ. Расійскай імперыі. У 1808 В. набыў Вінцэнт Гяцэвіч (пазней мінскі губернатар), у далейшым вёскай валодалі яго нашчадкі. Пасля скасавання прыгону В.— цэнтр воласці і адначасова цэнтр сялянскага т-ва, у якое ўваходзілі вёскі б. маёнтка В. (Баяры, Будзішча, Гарватка, Ірыніца, Калодчына, Кучкі, Лаеўшчына, Сніпішкі, Суднікі, Фалькі, Ясьманаўцы). У 1897 у В. 601 ж., праваслаўная царква, каталіцкая мураваная капліца, сінагога. Напачатку 20 ст. у мястэчку 602 ж., валаснoе праўленне, народнае вучылішча (91 вучань і 2 настаўнікі), аднакласная царкоўнапрыходская школа, 359 дзесяцін зямлі, у 1810—1913 тут працавалі бровар (10 рабочых), у 1810—1913 — млын (18 рабочых). Сав. ўлада ўстаноўлена ў ліст. 1917. У лют.— снеж. 1918 акупіравана ням., у жн. 1919 — ліп. 1920 польскімі войскамі. 18.3.1921 мястэчка адышло да Польшчы. 3 верасня 1939 у складзе БССР. З 12.10.1940 вёска, цэнтр Вязынскага сельсавета Ільянскага р-на Вілейскай, з 1957 Маладзечанскай вобл. У чэрв. 1941 — ліп. 1944 акупіравана ням.-фаш. войскамі. Цэнтр саўгаса «Вязынь». У 1970 825 ж., 272 двары. З 1992 цэнтр калгаса «Вязынь». Спіртзавод, камбінат быт. абслугоўвання, майстэрні па рамонту с.-г. тэхнікі. Сярэдняя школа, дзіцячы сад, б-ка, паліклініка, аптэка, 4 магазіны, сталовая, аддз. сувязі. На паўн.-зах. ускраіне вёскі сядзіба, якая сфарміравалася ў 2-й пал. 19 ст., уключала мураваны сядзібны дом (не захаваўся), касцёл (1-я пал. 19 ст.), бровар, стайню, гасп. будынкі, парк. У цэнтры вёскі драўляная Свята-Успенская царква пач. 20 ст. Помнік 108 жыхарам навакольных вёсак, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. *В. Л. Насевіч, Г. М. Новікава.*

**ВЯЗЬ,** старажытнае дэкаратыўнае пісьмо, пры якім літары звязаны ў непарыўны арнамент. Запазычана ўсх.-слав. кніжнікамі ў канцы 14 ст. ад паўд. славян у двух стылях — прыродным і геаметрычным. Першы характарызаваўся наяўнасцю пры літарах раслінных і жывёльных арнаментальных элементаў, другі строга захоўваў геаметрычныя формы кірылаўскіх літар. Спалучэнне літар у В. дасягалася рознымі спосабамі: зліццём падобных частак суседніх літар (ТР — ПР), падпарадкаваннем адной літары другой, калі памер яе змяншаўся і яна пісалася ўнутры большай літары, не парасякаючы яе элементаў (Го — ГО), памяншэннем памеру абедзвюх літар і напісаннем іх адной пад другой ($\frac{С}{Т}$ — СТ) і інш. Упрыгожванне арнаментальнымі элементамі служыла для запаўнення пустот, характэрных многім кірылаўскім літарам. Для пісання В. звычайна выкарыстоўвалася калярова фарба, часцей за ўсё кінавар. На Беларусі ў 15—17 ст. В. служыла для ўпрыгожвання тытульных лістоў і загалоўкаў кніг, ужывалася пераважна ў рукапісных кнігах рэлігійных жанраў («Псалтыр» 16 ст., № 335, Дзярж. бібліятэка Расійскай Федэрацыі; «Пралог» 17 ст., № 325, тамсама; «Зборнік павучанняў» сярэдзіны 17 ст., № 752, Дзярж. гіст. музей Расійскай Федэрацыі). Зрэдку В. выкарыстоўвалі ў дзелавой і свецкай пісьменнасці (Статут Вял. княства Літоўскага 1566, № 34, Дзярж. публічная б-ка імя Салтыкова-Шчадрына ў Санкт-Пецярбургу; бел. пераклад «Хронікі польскай, літоўскай,

жамойцкай і ўсяе Русі» М. Стрыйкоўскага, № 688, тамсама). Друкаваная В вядома ў выданнях Ф. Скарыны, С Буднага, у старадруках канца 16—17 ст. (Статут Вял. княства Літоўскага 1588, выд. ў Вільні; «Гісторыя пра Варлаама і Іаасафа», 1637, выд. ў Куцейне; «Дзідаскалія», 1653, тамсама). У бел. В. пераважалі элементы расліннага і жывельнага арнаменту, у рус.— геаметрычнага.

*Літ* Щепкин В Н Вязь // Древности Тр имп Московского археол о-ва 1904 Т 20, вып 1, Карский Е Ф Славянская кирилловская палеография Л, 1928 *А М Булыка*

**ВЯЛЕ́С**, Велес, Валос, Волас, адзін з галоўных багоў усходнеславянскай язычніцкай міфалогіі; апякун жывелагадоўлі (у «Аповесці мінулых гадоў» названы «скотий бог»), апякун багацця і ўрадлівасці. У вераваннях старaж. балтаў яму адпавядалі Велняс (Вяльняс), Велс. З пісьмовых крыніц вядома, што пры заключэнні дагавораў славян з Візантыяй славяне-язычнікі кляліся не толькі *Перуном*, але і В.; у складзе пасольства былі купцы, якія давалі клятву свайму богу багацця — В. Сувязь паміж жывелагадоўляй і багаццем бачная з таго, што скарбніца раней наз «скотніцай». У «Слове пра паход Ігаравы» аўтар называе Баяна «Велесовым внуком», што сведчыць яшчэ пра сувязь вобраза В з абрадавымі песнямі і паэзіяй. Сляды культу В. прасочваюцца ў індаеўрапейскай міфалогіі. У чэшскіх тэкстах 16—17 ст. В., абпалены нябесным агнём Перуна, ператвораны ім у камень, жывелу, расліну, знішчаны, зрынуты пад зямлю ці ваду, выходзіць адтуль у новым увасабленні, каб прынесці чалавеку багацце, урадлівасць. В. пераўвасабляўся ў тура (вала), казла, мядзведзя, ваўка, змяю. З культам В., верагодна, звязаны легенды пра *Барысавы камяні* і *Рагвалодаў камень*, узгоркі з назвамі «Валова гара», «Турава гара», *валатоўкі*. У летапісах згадваюцца паганскія ігрышчы, на якіх «вадзілі тура». Пасля прыняцця хрысціянства культ В. як апекуна жывел быў заменены культам святога Уласа (гл. *Аўлас*). Быў вядомы звычай у канцы жніва пакідаць у дар божышчу нязжатымі некалькі каласоў, якія называлі «воласавай бародкай».

*Літ* Иванов В В, Топоров В Н Исследования в области славянских древностей М, 1974, Рыбаков Б А Язычество Древней Руси М, 1987 *Э М Заикоўскі*

**ВЯЛІ́КАЕ КНЯ́СТВА ЛІТО́ЎСКАЕ**, ВКЛ, Беларуска-Літоўская дзяржава (гаспадарства), афіцыйная назва — Вялікае княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае, феадальная дзяржава ва Усх. Еўропе, якая займала тэр. Беларусі і Літвы (у 13—18 ст.), Жэмайціі (з 1450-х гадоў), часткі «ўкраінных» (ускраінных) зямель (Кіеўская, Чарнігаўская землі і Валынь з 1360-х гадоў), часткі вялікарасійскіх зямель (у 14 — пач. 16 ст.). Ядром дзяржавы пры яе ўтварэнні былі беларускія землі верхняга і сярэдняга Панямоння, т. зв. *Чорная Русь*, ці гістарычная Літва, і землі па верхнім цячэнні

Герб Вялікага княства Літоўскага. Малюнак 1575

р. Віліі са сталіцай у г. Новагародку (гл. *Навагрудак*). Вытокі бел. дзяржаўнасці адносяцца да ўзнікнення Полацкага і Тураўскага, а пазней Гарадзенскага, Новагародскага, Смаленскага і інш. княстваў, а створаная ў гэты час матэрыяльная і духоўная культура стала падмуркам дзяржаваўтваральных працэсаў на бел землях у 13—14 ст. ВКЛ узнікла ва ўмовах пастаяннай жорсткай барацьбы з крыжацкай агрэсіяй і пад пагрозай мангола-татарскага нашэсця. Утварэнне дзяржавы дало магчымасць народам гэтага рэгіена адстаяць сваю незалежнасць і стварыла ўмовы для далейшага сац., паліт., эканам. і культурнага іх развіцця. Уключэнне бел. зямель у склад наваствoранай у сярэдзіне 13 ст. дзяржавы мела добраахвотны характар, яно ажыццяўлялася шляхам пагадненняў вял. князёў літ. з феадаламі бел., а потым і ўкр. зямель пры захаванні льгот, прывілеяў і пэўнага самакіравання (паводле прынцыпу «старыны» — «мы старыны не рушым»).

**Гістарычны нарыс** да Люблінскай уніі 1569. Утварэнне ВКЛ (Беларуска-Літоўскай дзяржавы) з цэнтрам у Новагародку адносіцца да 1240-х гадоў, калі па запрашэнні мясц. баяр тут стаў княжыць *Міндоўг* [сярэдзіна 1230-х гадоў — 1263]. Амаль няспынная барацьба маладой дзяржавы з каалцыяй *Лівонскага ордэна*, *Галіцка-Валынскага княства*, жамойцкіх, літоўскіх і ятвяжскіх князёў прымусіла Міндоўга пайсці на прымірэнне і саюз з Лівонскім ордэнам. У 1251 князь быў ахрышчаны паводле каталіцкага абраду, а ў 1253 каранаваўся ў Новагародку каралеўскай каронай, прысланай ад імя папы Інакенція IV (Міндоўг — адзіны кароль ВКЛ). У 1254 Міндоўг заключыў мір з галіцка-валынскім князем *Данілам Раманавічам*. Сын Міндоўга, Войшалк, пастрыгшыся ў манахі, перадаў Раману, сыну Данілы, «Новгородок от Миндовга», а Слонім, Ваўкавыск «и все городы» — «от себе». Другі сын Данілы *Шварн* (Сварамір) ажаніўся з дачкою Міндоўга. У 1258 Войшалк пакінуў манастыр і вярнуў княжанне ў Новагародку. Пасля паўстання жэмайтаў, куршаў і земгалаў Міндоўг парваў саюз з Лівонскім ордэнам, адрокся ад каталіцызму, ваяваў з крыжакамі, але ў 1263 быў забіты ў выніку змовы літ. феад. знаці на чале з князямі *Даўмонтам* і *Транятам*, апошні стаў княжыць «во всей земле Литовской и Жемойти», аднак у 1264 быў забіты слугамі Міндоўга. Вялікім князем стаў Войшалк [1264—67]. Ён, апіраючыся на бел. баяр і галіцка-валынскіх князёў, заваяваў Нальшчаны, Дзяволтву, аб'яднаў Новагародскую, Пінскую, Полацкую і Віцебскую землі. У 1267 Войшалк перадаў уладу свайму швагру галіцкаму князю Шварну [1267—70], які, пераадольваючы сепаратызм літ. племянных сіл, працягваў аб'ядначы працэс і ўмацаванне дзяржавы. Вял. князь Трайдзень [1270—82] вёў барацьбу супраць нальшчанскіх феадалаў і Галіцка-Валынскага княства, якое імкнулася замацавацца не толькі на Палессі, але і на Чорнай Русі. У 1274 ён сіламі гарадзенцаў захапіў Драгічын Надбужскі і знішчыў большую частку яго насельніцтва. У адказ галіцка-валынскі князь Леў Данілавіч стварыў кааліцыю галіцка-валынскіх, смаленскіх, турава-пінскіх і інш. князёў і разам з татарскім войскам захапіў і разрабаваў Новагародак. У 1277 горад захапілі і разрабавалі татары — саюзнікі Галіцка-Валынскага княства. У адказ Трайдзень разбіў аб'яднанае войска татар і галіцка-валынскіх князёў каля Гародні. У 1279 літ. войска нанесла паражэнне лівонскім рыцарам, а ў 1281 захапіла г. Герцыке (былую полацкую крэпасць), які Лівонскі ордэн вымушаны быў абмяняць на г. Дынабург (цяпер Даўгаўпілс) Вял. князь *Віцень* [каля 1295—1316], абапіраючыся на Новагародскае, Гарадзенскае, Полацкае і інш. княствы, умацоўваў дзяржаву. У 1294 ён задушыў паўстанне ў Жэмайціі, у 1298, выкарыстаўшы супярэчнасць паміж Лівонскім ордэнам і рыжскім архіепіскапам, заключыў мірны дагавор з Рыгаю У 1298 і 1305 бел.-літ. войскі адбілі напады крыжакоў на Жэмайцію, а ў 1314 на крывіцкія землі, дзе ў бітве пад Новагародкам асабліва вызначылася бел. войска пад камандаваннем *Давыда Гарадзенскага* У 1315 вял. князь са значным войскам уварваўся ў Прусію і асадзіў моцны замак Хрыстмемель. У час княжання Віценя да ВКЛ было далучана *Полацкае княства* (1307).

Значна пашырылася тэр. ВКЛ пры *Гедзіміне* [1316—41], які называў сябе ў граматах вял. князем «літоўцаў і рускіх». У 1320 у склад ВКЛ увайшла *Віцебская зямля*, у 1320—30-я гады — Берасцейская зямля, Менскае княства і Турава-Пінская зямля. Гедзімін заключыў саюз з мазавецкім князем (1322) і з польскім каралем Уладзіславам І Лакеткам (1325). Выкарыстаўшы супярэчнасці паміж г. Рыгай і Лівонскім ордэнам, ён нанёс некалькі паражэнняў кры-

жакам, меў паліт. ўплыў на Кіеў, Пскоў і Ноўгарад Вялікі. У 1323 перанёс сталіцу ВКЛ у г. *Вільню.* Яшчэ пры жыцці Гедзіміна яго сыны атрымалі спадчыну: Манівід — Кернаў і Слонім; *Карыят* — астатнюю частку Чорнай Русі з Навагародкам; *Альгерд,* князь віцебскі,— Крэва і землі па Бярэзіне; *Кейстут* — Трокі, Гарадзенскую і Берасцейскую землі; *Нарымунт* — Пінскую зямлю; Вільню з вобласцю атрымаў малодшы сын *Яўнут,* якому быў завяшчаны вялікакняжацкі трон і які быў вял. князем у 1341—45. У выніку змовы Альгерда і Кейстута Яўнут быў скінуты і яму перададзена Заслаўскае княства. Вял. князем літ. стаў Альгерд [1345—77]. У час яго княжання ў склад ВКЛ у сярэдзіне 14 ст. ўвайшло Бел. Падняпроўе (Мсціслаў у 1358), у 1355 — Бранскае княства. У 1360—70-я гады ў ВКЛ увайшлі Кіеўская зямля, Мазырская і Брагінская воласці, Чарнігава-Северская, Падольская і Валынская землі. Было падначалена *Смаленскае княства.* У склад ВКЛ увайшлі таксама жамойцкія землі. Барацьба супраць *Тэўтонскага ордэна* адбывалася з пераменным поспехам. У 1345—82 бел.-літ. войска зрабіла 30 паходаў на тэр. ордэна і 10 паходаў на Лівонію, што стрымлівала агрэсію ням. крыжакоў, якія неаднаразова даходзілі да Полацка, Навагародка, Гародні, Ліды, Крэва, Бярэсця, Ваўкавыска, Браслава, Дзісны і інш. гарадоў і замкаў, штурмавалі іх і руйнавалі. Альгерд праводзіў актыўную палітыку на Усходзе, намагаючыся аб'яднаць пад сваёй уладай усе рус. землі. Ён спрабаваў падпарадкаваць сабе Пскоў і Ноўгарад Вялікі, у 1377 жыхары Пскова прынялі на княжанне сына Альгерда *Андрэя Полацкага.* Альгерд падтрымліваў цвярскіх вял. князёў у іх барацьбе супраць Масквы. У 1368, 1370 і 1372 ён зрабіў тры паходы на Маскву. Спробы маскоўскіх вял. князёў перашкодзіць аб'яднанню бел. зямель былі сарваны. У 1349—52 і ў 1350 — 60-я гады Альгерд таксама вёў барацьбу з Польшчай за Валынь і за Падляшша. За час княжання Альгерда тэр. ВКЛ павялічылася ўдвая, амаль усе бел. землі былі ўключаны ў склад дзяржавы. Значную большасць насельніцтва княства складалі этнічныя беларусы, бел. культура і мова былі пануючымі ў краіне. Літ. феадалы, у т. л. князі з дынастыі *Гедзімінавічаў,* успрынялі бел. культуру і перайшлі на карыстанне бел. мовай у паўсядзённым ужытку.

Пасля смерці Альгерда абвастрыўся канфлікт паміж Кейстутам і *Ягайлам* Альгердавічам, які стаў вял. князем літоўскім [1377—92]. Гэта выкарысталі крыжакі, каб распаліць міжусобную вайну ў ВКЛ. Ягайла заключыў тайныя дагаворы з Тэўтонскім і Лівонскім ордэнамі і паабяцаў не дапамагаць Кейстуту, калі крыжакі нападуць на яго землі. Кейстут у адказ у 1381 пазбавіў Ягайлу вярх. улады, пакінуўшы яму толькі ўдзельнае княства ў Крэве. У 1382 крыжакі спустошылі Літву, у чэрв. Ягайла заняў Вільню, а Кейстут здаўся яму і быў задушаны ў Крэўскім замку па загадзе Ягайлы. Князь *Вітаўт* Кейстутавіч, які таксама быў вязнем у Крэве, уцёк да крыжакоў, шукаючы ў іх дапамогі. У 1383 Вітаўт разам з крыжакамі захапіў Коўна, Трокі і спаліў прадмесце Вільні, аднак Ягайла разам з братам *Скіргайлам* вярнуў заваяваныя гарады. Вітаўт вярнуўся на тэр. Тэўтонскага ордэна і пачаў згуртоўваць вакол сябе незадаволеных Ягайлам літ. і бел. феадалаў. Адначасова ўпотай ад ордэна Вітаўт прапанаваў Ягайлу прызнаць яго вял. князем, калі той аддасць яму спадчыну Кейстута. Ягайла згадзіўся аддаць спачатку Гародню і Бярэсце, а потым і Трокі. Вітаўт са сваімі прыхільнікамі спаліў два замкі крыжакоў, у т. л. і Новы Марыенбург, дзе была яго рэзідэнцыя, і вярнуўся ў ВКЛ. Каб умацаваць свае пазіцыі ў барацьбе з крыжакамі, Ягайла пачаў перагаворы аб саюзе ВКЛ з Масквою, спадзеючыся праз шлюб з дачкою Дзмітрыя Данскога і прыняцце літоўцамі праваслаўя гарантаваць падтрымку Маскоўскай дзяржавы ў вайне з Тэўтонскім ордэнам. Аднак даведаўшыся, што Дзмітрый Данскі намерваўся далучыць усх. землі ВКЛ да Маскоўскай дзяржавы, Ягайла адмовіўся ад гэтага саюзу. З мэтай працідзеяння знешняй небяспецы, што таксама пагражала суседняму Каралеўству Польскаму, і ўмацавання сваёй улады Ягайла заключыў *Крэўскую унію 1385,* паводле якой ён перайшоў у каталіцтва, прыняў імя Уладзіслаў, ажаніўся з каралевай Ядвігай і быў абвешчаны польскім каралём, абяцаў правесці хрышчэнне літоўцаў паводле каталіцкага абраду і далучыць да Польшчы землі ВКЛ. Каб утрымаць уладу ў сваіх руках, Ягайла прызначыў у Вільні і некаторых літ. гарадах сваіх намеснікаў, а намеснікам у княстве паставіў свайго брата Скіргайлу. Супраць падпарадкавання ВКЛ Польшчы выступіў Вітаўт, але ён вымушаны быў адступіць да крыжакоў, адкуль арганізоўваў паходы супраць войск Ягайлы і Скіргайлы.

У 1391 Вітаўт выдаў сваю дачку Соф'ю замуж за вял. князя маскоўскага Васіля I Дзмітрыевіча і ўступіў з ім у паліт. саюз. Міжусобная вайна паміж Вітаўтам і Ягайлам скончылася *Востраўскім пагадненнем 1392,* паводле якога Вітаўт стаў вял. князем літ. [1392—1430], ВКЛ гарантавалася самастойнасць у саюзе з Польшчай. Умацаваўшы сваю ўладу, Вітаўт ліквідаваў некалькі ўдзельных княстваў (у Полацку, Віцебску, Ноўгарадзе-Северскім, Кіеве, на Валыні і ў Падоліі). У адносінах да Тэўтонскага і Лівонскага ордэнаў праводзіў наступальную палітыку, хоць з-за паліт. абставін вымушаны быў рабіць крыжакам уступкі. Так, у выніку частых нападаў крыжакоў на бел. і літ. землі Вітаўт у 1398 аддаў Тэўтонскаму ордэну частку Жэмайціі. Пасля *бітвы на Ворскле 1399,* калі літ.-бел. войска было разбіта татарскім войскам мурзы Едзігея, Вітаўт вымушаны быў заключыць *Віленска-Радамскую унію 1401,* паводле якой ВКЛ прызнавалася пажыццёвым уладаннем Вітаўта, а Ягайла захоўваў тытул вярх. князя. Палітыка ВКЛ заставалася самастойнай. У 1404 да ВКЛ было канчаткова далучана Смаленскае княства. У 1409 пачалася *Вялікая вайна 1409—11* паміж ВКЛ і Польшчай з аднаго боку і Тэўтонскім ордэнам з другога. У час *Грунвальдскай бітвы 1410* крыжацкія войскі былі дашчэнту разбіты саюзнымі войскамі. Ордэн быў вымушаны заключыць *Торунскі мір 1411,* паводле якога ўсе гарады, захопленыя ў час вайны, вярталіся ўладальнікам, Жэмайція пераходзіла ў пажыццёвае ўладанне Вітаўта. У 1413 адбыўся агульны польска-літ. сойм у Гарадле. Паводле *Гарадзельскай уніі 1413* 47 польскіх феадалаў прынялі ў гербавае брацтва 47 баяр ВКЛ, што ўмацоўвала паліт. і саслоўны

Да арт Вялікае княства Літоўскае. Від Гродна. Гравюра М. Цюнда. 1568. Фрагмент.

саюз абедзвюх дзяржаў. Было вырашана назначаць на дзярж. пасады віленскага і трокскага ваяводаў і кашталянаў феадалаў-католікаў, даваць ільготы касцёлам, кляштарам і інш., склікаць агульныя соймы абедзвюх краін для вырашэння агульных пытанняў. У 1416 Вітаўт дамогся абрання і зацвярджэння асобнага мітрапаліта праваслаўнай царквы Грыгорыя Цамблака, не падпарадкаванага маскоўскаму мітрапаліту. У 1425 пасля смерці Васіля І Дзмітрыевіча яго ўдава Соф'я Вітаўтаўна стала рэгентшай пры малалетнім сыне і ў 1427 у Смаленску прыняла пратэктарат бацькі (Маскоўскае вял. княства часова стала васальным у дачыненні да вял. князя Вітаўта). Вітаўт скарыстаў гэта і заключыў выгадныя для сябе дагаворы з Псковам і Ноўгарадам, падпарадкаваў сабе Цвярское і Разанскае княствы, а таксама Вярхоўскія княствы (у вярхоўях р. Акі), актыўна ўмешваўся ў справы Залатой Арды і Крыма. У Вільні ён прымаў татарскіх прэтэндэнтаў на трон і пасылаў вайсковыя экспедыцыі. Выкарыстоўваючы залатаардынскія міжусобіцы, Вітаўт падпарадкаваў сваёй уладзе прычарнаморскія землі паміж Дняпром і Днястром, пабудаваў шэраг крэпасцей, у т. л. на Чорным моры. ВКЛ стала дзяржавай «ад мора да мора».

Пасля смерці Вітаўта з'езд бел., літ. і ўкр. баяр у Вільні абраў вял. князем малодшага брата Ягайлы — *Свідрыгайлу* [1430—32]. Адразу ж паміж Польшчай і ВКЛ пачаўся канфлікт з-за Валыні і Падоліі, у 1431 Ягайла пачаў захоп Валыні. Тэўтонскі ордэн, заключыўшы саюз з Свідрыгайлам, напаў на польскія землі. У выніку змовы літ. баяр Свідрыгайла ў вер. 1432 быў скінуты з трона і ўцёк з Ашмян у Полацк. Вял. князем літ. быў абвешчаны малодшы брат Вітаўта *Жыгімонт Кейстутавіч* [1432—40], якога прызналі Літва, Берасцейская, Менская землі і прынёманскія валасці, астатнія бел. і ўкр. землі захавалі вернасць Свідрыгайлу. Пачалася феад. грамадзянская вайна (гл. *Свідрыгайлы паўстанне 1432—39*), абодва вял. князі намагаліся перацягнуць на свой бок асн. частку феад. класа — бел. і ўкр. баяр, пашыраючы на іх ільготы і прывілеі, дадзеныя феадалам-католікам *Гарадзельскім прывілеем 1413*. 15 кастр. 1432 Жыгімонт узнавіў унію з Польшчай. 9.12.1432 Свідрыгайла пацярпеў паражэнне пад Ашмянамі. 1.9.1435 у бітве пад Вількамірам бел.-ўкр. войска Свідрыгайлы, якому дапамагалі крыжакі Лівонскага ордэна, было разбіта польска-літ. войскам Жыгімонта. Пасля выдання Жыгімонтам прывілея пра ўраўнаванне асабістых і маёмасных правоў баяр-католікаў і праваслаўных (6.5.1434) і перадачу на карысць баяр дзярж. павіннасці *дзякла* Свідрыгайла страціў падтрымку большасці бел. феадалаў. Лівонскі ордэн падпісаў мір з Польшчай і ВКЛ і абавязаўся не падтрымліваць

Да арт. **Вялікае княства Літоўскае.** «Распяцце». Фрагмент драўлянай скульптуры. Канец 14 ст. Дзярж. маст. музей Беларусі.

Свідрыгайлу, які замацаваў свае пазіцыі толькі ва ўкр. землях. Атрымаўшы перамогу над Свідрыгайлам, Жыгімонт рашыў вызваліцца з-пад залежных адносін ад Польшчы, польскія феадалы пайшлі на збліжэнне з Свідрыгайлам, супраць Жыгімонта была арганізавана змова, і 20.3.1440 ён быў забіты. Трон спрабаваў заняць яго сын Міхайлушка Жыгімонтавіч, прэтэндаваў і Свідрыгайла, але паны-рада выбрала вял. князем літоўскім малодшага брата польскага караля Уладзіслава III — *Казіміра* Ягелончыка [1440—92], які ліквідаваў унію з Польшчай. Казіміру давялося ўзнаўляць велікакняжацкую ўладу ў Смаленскай зямлі, дзе мсціслаўскі князь *Юрый Лугвенавіч* спрабаваў стварыць самастойнае княства, далучыўшы да Мсціслава Віцебск і Полацк. Ад ВКЛ адышла таксама Кіеўская зямля, а на Валыні ўмацаваўся Свідрыгайла. Вял. князю ўдалося ўмацаваць сваю ўладу. У 1447 пасля смерці Уладзіслава III польскія феадалы выбралі Казіміра Ягелончыка каралём, за гэта яны патрабавалі адмовіцца ад Валыні і Падоліі і ўзнаўлення уніі з Польшчай. Перад ад'ездам у Кракаў на каранацыю ён выдаў *прывілей 1447*, які гарантаваў феадалам асабістую недатыкальнасць, скасоўваў натуральныя і грашовыя павіннасці з маёнткаў на карысць дзяржавы, перадаваў баярам права судзіць і караць сваіх сялян як вотчынных, так і падараваных вял. князем. Казімір фактычна дамовіўся з феадаламі ўзаемна не прымаць збеглых сялян. Вял. князь выдаў *Судзебнік 1468*, у якім былі змешчаны юрыд. нормы, у асноўным крымінальныя. Так былі ўзмоцнены сацыяльныя і паліт. пазіцыі баяр, адначасова былі пашыраны правы праваслаўнай царквы ў ВКЛ: у 1458 яна канчаткова вызвалілася ад маскоўскай мітраполіі і падпарадкоўвалася канстанцінопальскаму патрыярху. За тое, што Казімір быў схільны перадаць Падолію і Валынь Польшчы, супраць яго была арганізавана змова праваслаўных князёў на чале з Міхаілам Алелькавічам, Фёдарам Бельскім (нашчадкі Альгерда) і Іванам Гальшанскім, якія хацелі дэтранізаваць Казіміра і ўзвесці на трон Міхаіла Алелькавіча. У 1481 змова была раскрыта, яе не падтрымалі сярэднія і дробныя феадалы, бо на іх не пашыраліся прывілеі, якімі карысталіся магнаты. Міхаіл Алелькавіч і Іван Гальшанскі былі пакараны смерцю, а Фёдар Бельскі ўцёк да маскоўскага вял. князя Івана III, з якім змоўшчыкі былі звязаны і які ўжо меў план захопу ўкр. і бел. зямель. З 1470-х гадоў крымскія татары рабілі сістэматычныя напады на землі Украіны і паўд. Польшчы, асабліва пачасціліся напады татар на паўд. землі ВКЛ з 1475, калі Крымскае ханства стала васалам Турэцкай імперыі.

Пасля смерці Казіміра вял. князем стаў яго сын *Аляксандр* [1492—1506]. Пры яго абранні паны-рада, вышэйшы кіруючы орган ВКЛ, паставіла ўмовы пра абмежаванне велікакняжацкай улады: усе найважнейшыя дзярж. справы — абарона краіны, міжнар. адносіны, выданне законаў, разгляд найважнейшых судовых спраў — вял. князь павінен быў вырашаць разам з радай. Пры Аляксандру пачалася серыя войн з Маскоўскай дзяржавай. У выніку *вайны Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1492—94* ВКЛ страціла Вяземскае княства і частку Вярхоўскіх княстваў. Аляксандр ажаніўся з дачкою маскоўскага вял. князя Івана III *Аленай*, аднак гэты дынастычны шлюб не палепшыў адносін паміж абедзвюма дзяржавамі — маскоўскі вял. князь па-ранейшаму намагаўся ўмешвацца ва ўнутраныя справы ВКЛ, каб далучыць да Маскоўскай дзяржавы ўкр. і бел. землі. У час *вайны Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1500—03* недалёка ад Дарагабужа адбылася *бітва на Вядрошы 1500*, у выніку якой войска ВКЛ пад камандаваннем гетмана К. І. Астрожскага было разгромлена, а сам камандуючы трапіў у палон. Маскоўскія войскі спусташалі раёны Смаленска, Оршы, Мсціслава, Полацка, Віцебска і інш. Паводле перамір'я да Масквы адыходзілі землі з Чарнігавам, Старадубам, Гомелем (да 1537), Бельскае, Таропецкае і частка Мсціслаўскага княства. Адначасова ў 1502, 1503 і асабліва ў 1505 адбыліся напады на ўкр. і бел. землі крымскіх татар, якія руйнавалі паселішчы каля Менска, Слуцка, Навагрудка і інш. У 1506 татары праз Брагін, Мазыр, Петрыкаў накіраваліся да Клецка, Менска, Ліды, Ашмян, Ваўкавыска, Гародні. 5.8.1506 7-тысячнае бел. войска баяр на чале з Міхаілам Глінскім разбіла каля Клецка вял. татарскае войска, рэшткі якога знішчаны каля Капыля, Слуцка, Петрыкава і Жытоміра, вызвалена 40 тыс. чал., узятых у палон татарамі (гл. *Клецкая бітва 1506*). Пасля гэтага разгрому буйныя татарскія напады на Беларусь не паўтараліся. Пасля

смерці Аляксандра на велікакняжацкі трон выбраны яго малодшы брат Жыгімонт Стары [1506—48]. Каб захаваць хоць бы персанальную унію паміж дзвюма дзяржавамі, польская шляхта праз 3 месяцы выбрала Жыгімонта каралём. Неўзабаве пасля абрання вял. князя адбылася *вайна Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1507—08*, якая суправаджалася новым спусташэннем усх., паўд. і цэнтр. Беларусі. У час *вайны Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1512—22* у 1514 капітуляваў Смаленск, а 8 вер. адбылася *Аршанская бітва 1514*, у ходзе якой 80-тысячнае маскоўскае войска было разгромлена ўтрая меншым бел.-літ. войскам гетмана Астрожскага. Для аховы паўд. межаў ВКЛ, акрамя вайсковых гарнізонаў на Украіне, былі створаны атрады пагранічнай стражы з мясцовых жыхароў — казацкія загоны. Яны ў адказ на татарскія набегі самі часта нападалі на паселішчы крымскіх татар і турэцкія крэпасці на ўзбярэжжы Чорнага мора. У 1524 войска на чале з Астрожскім і кіраўніком казацкіх атрадаў А. Дашковічам штурмам авалодала турэцкай крэпасцю Ачакаў (у 1545 у другі раз). У 1527 літ.-бел. войска на чале з вял. гетманам ВКЛ К. Астрожскім, слуцкім князем Ю. Алелькавічам, гродзенскім старостам Я. Радзівілам, кіраўніком казакоў Дашковічам і інш. разграміла татарскае войска на р. Альшаніцы каля Канева і Чаркасаў (гл. *Альшаніцкая бітва 1527*). У час *вайны Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1534—37* дзве расійскія арміі на пачатку 1535 праз Маладзечна накіраваліся на Вільню, але да яе не дайшлі, трэцяя праз Рэчыцу, Бабруйск і Слуцк дайшла да Навагародка, а на зваротным шляху спаліла Тураў, Мазыр і Брагін. Былі спалены таксама неўмацаваныя пасады гарадоў. Паводле расійскага Піскароўскага летапісца, расійскія ваяводы «посады у городов жгли и села жгли и люди, и живот, и животину вынимали, а иное выжгли и вышли поздорову». Бел. шляхта сабралася ў войска і з Рэчыцы ўлетку 1535 накіравалася на Северскую зямлю, узяўшы спачатку Гомель, потым Старадуб. Паводле перамір'я Гомель і Любеч адышлі да ВКЛ.

Яшчэ пры жыцці Жыгімонта Старога на сойме ў Вільні ў 1529 вял. князем літ. быў выбраны яго 9-гадовы сын Жыгімонт Аўгуст. Праз 2 месяцы і польскі сойм выбраў яго польскім каралём. Гэтыя двайныя выбары мелі двайную мэту — стварыць умовы для спадчыннай манархіі ў абедзвюх дзяржавах і забяспечыць умацаванне уніі паміж імі. Далейшым развіццём гэтай палітыкі была перадача ўлады ў ВКЛ Жыгімонту Аўгусту на Берасцейскім сойме ў кастр. 1544. Жыгімонт Стары захаваў тытул вярхоўнага князя, а сын атрымаў усю паўнату ўлады на перыяд адсутнасці бацькі ў дзяржаве. У час княжання Жыгімонта

Да арт. **Вялікае княства Літоўскае.** Герб Гарабурдаў. Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь.

Да арт. **Вялікае княства Літоўскае.** Герб Храптовічаў. Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь.

Старога быў прыняты адзін з першых у Еўропе сістэматызаваны збор законаў — *Статут Вялікага княства Літоўскага 1529.*

У 1548 памёр Жыгімонт Стары і паўнапраўным каралём і вял. князем літ. стаў Жыгімонт Аўгуст [1548—72]. У час яго кіравання ў ВКЛ былі праведзены важныя паліт. і эканам. рэформы, у т. л. адміністрацыйныя, у выніку якіх форма і структура адм.-тэр. падзелу ВКЛ былі набліжаны да аналагічнага ладу саюзнага Каралеўства Польскага. Паводле адм. рэформы 1565—66 утвараліся павятовыя соймікі, якія вырашалі мясцовыя пытанні, і павятовыя суды — гродскія, земскія і падкаморскія. У *Лівонскую вайну 1558—83* расійскі цар Іван IV Грозны намагаўся захапіць Лівонію, атрымаць новых прыгонных сялян і гарады на Балтыйскім моры для гандлю з Еўропай. Паводле дагавора з магістрам ад 31.8.1559 Лівонскі ордэн пераходзіў пад пратэктарат Жыгімонта Аўгуста, да дагавора далучыўся і рыжскі архіепіскап. Паколькі пазіцыя Польшчы ў лівонскім пытанні была асцярожнай, ВКЛ уступіла ў вайну без саюзніка. Ваенныя дзеянні пачаліся ўлетку 1561. У пач. 1563 цар з гал. сіламі асадзіў Полацк. Невялікі гарнізон 2 тыдні адбіваў атакі непрыяцеля, але вымушаны быў капітуляваць; частка жыхароў была знішчана, частка выслана ў Маскву. 26.1.1564 10-тысячнае (паводле інш. звестак 4-тысячнае) войска гетмана ВКЛ М. Радзівіла разбіла 30-тысячнае маскоўскае войска на Чашніцкіх палях (гл. *Ульская бітва 1564*), у канцы студз. або пачатку лют. 1564 бел.-літ. войска разбіла маскоўскую армію каля Оршы (гл. *Аршанская бітва 1564*). Улетку 1564 войскі Івана IV знішчалі вёскі ў раёне Мсціслава, Крычава і Магілёва, у адказ у 1565 бел.-літ. войска зрабіла рэйды пад Вял. Лукі і Смаленск. На завяяванай тэрыторыі Іван Грозны загадаў пабудаваць крэпасці Усвят, Улу, Сокал, Сушу і інш. У 1567 ваен. дзеянні аднавіліся, у ліп. 2-тысячны атрад гетмана польнага літ. Р. Ф. Сангушкі разграміў лагер расійскіх войск пад Чашнікамі (9 тыс. чал.), у вер. разбіў 9-тысячнае маскоўскае войска на маршы, у вер. 1568 узяў штурмам замак Улу, а віцебскія казакі на чале з Бірулем спалілі замкі Усвят і Веліж. У адказ расійскія войскі спрабавалі ўзяць Віцебск, але толькі спалілі гарадскія прадмесці. Ход вайны паказаў, што самому ВКЛ без саюзнікаў не перамагчы такую моцную дзяржаву, як Расія. Шляхта ВКЛ на палявым сойме каля Віцебска 13.9.1562 прыняла акт і накіравала яго вял. князю з просьбай заключыць новую дзярж. унію з Польшчай. Яна намагалася мець агульныя соймы з польскай шляхтай, сумесна з ёю выбіраць караля і вял. князя, а галоўнае — карыстацца аднолькавымі правамі і разам змагацца з ворагам. Супраць уніі з Польшчай выступіла асн. частка магнатаў на чале з віленскім ваяводам, канцлерам і маршалкам земскім М. Я. Радзівілам, якая не хацела страціць свае паліт. пазіцыі ў кіраванні дзяржавай і свае грамадскія прывілеі на карысць агульнай масы шляхты унутры ВКЛ. Віленскі сойм 1563 разгледзеў пытанне аб уніі з Польшчай і вылучыў дэлегацыю для перагавораў з дэлегацыяй польскага сойма. Магнаты дамагліся ўключэння ў інструкцыю для перагавораў пунктаў, якія захоўвалі за ВКЛ цэласнасць, адасобленасць і значную долю самастойнасці. Абвяшчэнне вайны і заключэнне міжнар. дагавораў павінны былі папярэдне ўзгадняцца абедзвюма дзяржавамі. Агульныя соймы маглі збірацца толькі ў выключных выпадках. Соймы і сенаты, дзярж. пасады, установы і суды заставаліся асобнымі. Выбіраўся адзіны кароль (ён жа вял. князь літ.), але каранацыя яго павінна была праводзіцца асобна ў Кракаве і Вільні. Польскія магнаты хацелі поўнай інкарпарацыі ВКЛ у склад Польшчы, іх падтрымлівала і польская шляхта. Далейшыя перагаворы аб уніі адбываліся на Варшаўскім сейме 1563—64, на сойме ВКЛ у Бельску 1564, у Парчове, на Берасцейскім сойме 1566, на палявым сойме ў Лебедзеве. Нарэшце 1.7.1569 асоб-

на дэпутатамі польскага сейма і сойма ВКЛ пад прысягаю быў прыняты акт аб уніі (гл. *Люблінская унія 1569*), паводле якога ўрачыста абвяшчалася аб'яднанне на аснове роўнасці Польшчы (Кароны) і ВКЛ (Літвы, або Княства) у федэратыўную дзяржаву — *Рэч Паспалітую*. На чале дзяржавы быў кароль (ён жа вял. князь літ.), якога выбірала пажыццёва шляхта «абодвух народаў». Ствараўся агульны для ўсёй дзяржавы магнацка-шляхецкі сойм з 2 палат: сената (магнаты, прадстаўнікі цэнтр. і правінцыяльнай адміністрацыі, вярхі каталіцкай царквы) і пасольскай ізбы, у якую выбіраліся па 2 паслы ад кожнага павета. Былыя прывілеі феадалам пакідаліся ў абедзвюх дзяржавах, абедзве краіны захоўвалі суверэнітэт, асобныя дзярж. адміністрацыі, войскі, скарб і права эмісіі аднолькавай манеты, адм. і судовы апарат, свае законы і сваю мытную сістэму. Кожная краіна мела сваю дзярж. мову: Польшча — лацінскую, ВКЛ — беларускую. Асобным актам 3.8.1569 Курляндыя была абвешчана васалам Польшчы і ВКЛ, Ліфляндыя — сумесным уладаннем (кандамініумам). Люблінская унія была кампрамісам феадалаў Польшчы і ВКЛ, у выніку якога стваралася больш моцная дзяржава, яна ўмацоўвала паліт. еднасць абедзвюх дзяржаў, узмацніла працэсы іх эканам., паліт. і культ. збліжэння, уплыў еўрап. культуры на бел. землі. У вайскова-паліт. адносінах, пры правядзенні агульнай знешняй палітыкі абедзвюх краін унія дапамагала бел. народу адбіць агрэсію Расійскай дзяржавы, утрымаць сваю незалежнасць і захаваць сваю дзяржаву.

П а с л я Л ю б л і н с к а й у н і і (з 1569 да канца 18 ст.). Пасля смерці Жыгімонта Аўгуста польскім каралём і вял. князем літ. выбраны Генрых Валуа (брат французскага караля Карла IX), які прабыў каралём некалькі месяцаў і, даведаўшыся аб смерці брата, у ноч на 19.6.1574 уцёк у Францыю, дзе стаў каралём Генрыхам III. Новым каралём і вял. князем літ. 15.12 1575 выбраны князь Трансільваніі (Сяміграддзя) Стэфан *Баторый* [1576—86]. Выкарыстаўшы нестабільнасць паліт. становішча ў Рэчы Паспалітай, Іван IV Грозны пачаў наступленне ў Лівоніі, расійскія войскі занялі тэр. ад Дынабурга (цяпер Даўгаўпілс) да Рыгі. У ліп. 1579 40-тысячнае польскае і бел.-літ. войска Баторыя разам з венгерскімі і ням. наёмнікамі, адрэзаўшы расійскія войскі ў Лівоніі ад Расіі, рушыла да Полацка. Перадавыя бел.-літ. атрады пад камандаваннем гетмана вялікага Мікалая Радзівіла Рудога і яго сына гетмана польнага Крыштафа Радзівіла занялі замкі Казяны, Сітна і Краснае. Пасля 26-дзённай аблогі быў вызвалены Полацк, 4 вер. ўзята крэпасць Сокал, а праз месяц — Суша. У наступную кампанію войскі Баторыя занялі Усвят, Веліж, увосень 1580 — Вял. Лукі, Невель, Завалочча, Езярышча, а ў канцы года — Холм і Старую Русу. У 1581 расійскія войскі спустошылі ваколіцы Дуброўны, Оршы, Копысі, Шклова, Магілёва і Мсціслава.

Да арт. **Вялікае княства Літоўскае.** Герб Сыракомляў. Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь.

26.8.1581 войскі Баторыя асадзілі Пскоў, але яго аблога не дала вынікаў. 15.1.1582 Рэч Паспалітая і Расія падпісалі *Ям-Запольскі мірны дагавор 1582* на 10 гадоў, паводле якога Расія адмаўлялася ад Лівоніі, Полацкай зямлі і Веліжа, а Рэч Паспалітая вяртала ёй заваяваныя крэпасці на расійскай тэрыторыі. Пасля смерці Баторыя (12.12.1586) польскім каралём і вял. князем літ. быў выбраны шведскі каралевіч Жыгімонт Ваза [1587—1632], які імкнуўся мець падтрымку літ.-бел. магнатаў і шляхты. 28.1.1588 ён выдаў прывілей, якім зацвярджаўся *Статут Вялікага княства Літоўскага 1588*. Пасля смерці бацькі Юхана III (1592) Жыгімонт заняў і шведскі трон. У сваёй палітыцы ён намагаўся знішчыць у Рэчы Паспалітай рэфармацыю і вярнуць былыя пазіцыі каталіцкай царкве пры падтрымцы ордэна езуітаў. У 1599 шведскія дваране-пратэстанты на сойме скінулі Жыгімонта з трона, а ў 1604 абвясцілі яго дзядзьку Карла каралём Швецыі Карлам IX. У час абвяшчэння *Брэсцкай уніі 1596* Жыгімонт падтрымаў іерархію і царкоўны сабор уніяцкай царквы на Беларусі і Украіне, аднак не дапускаў епіскапаў гэтай канфесіі ў сенат Рэчы Паспалітай. Як шчыры католік, Жыгімонт усяляк падтрымліваў ідэю уніі і дапамагаў ажыццяўляць яе, але як палітык і кіраўнік дзяржавы вымушаны быў лічыцца з рэальным становішчам у краіне і за яе межамі, таму ён далучыўся да пастаноў сейма Рэчы Паспалітай 1609, 1618 і 1631, якія гарантавалі правы праваслаўных. У час *вайны Рэчы Паспалітай са Швецыяй 1600—29* польскае і літ.-бел. войска на чале з Янам Каралем Хадкевічам 27.9.1605 ушчэнт разбіла шведскае войска, аднак выкарыстаць вынікі перамогі Жыгімонт не здолеў.

Пазней кароль захапіўся новым планам, прапанаваным групай магнатаў і шляхты,— далучыць Маскоўскую дзяржаву да Рэчы Паспалітай у якасці члена федэрацыі або заключыць саюз, але з каралевічам польскім у якасці цара. З гэтай мэтай кароль разам з магнатамі і шляхтай падтрымалі *Ілжэдзмітрыя I* і *Ілжэдзмітрыя II* (выхадца з Беларусі), але калі апошняму не ўдалося захапіць Маскву, Жыгімонт пачаў рыхтавацца да вайны. У час *вайны Рэчы Паспалітай з Расіяй 1609—18* польскае і бел.-літ. войска, разбіўшы расійскае войска пад Смаленскам, падышло да Масквы, дзе адбыўся пераварот, і сын Жыгімонта каралевіч Уладзіслаў быў абвешчаны расійскім царом. У 1610 польскае і бел.-літ. войска заняло Маскву. Жыгімонт не адпусціў сына ў Расію, ён больш схіляўся да дзярж. уніі Рэчы Паспалітай з Расіяй. 22—26.10.1612 другое апалчэнне пад кіраўніцтвам К. Мініна і Дз. Пажарскага вызваліла Маскву, а ў лют. 1613 земскі сабор выбраў на царскі трон Міхаіла Фёдаравіча Раманава. У 1617—18 каралевіч Уладзіслаў, які меў тытул цара маскоўскага і ўсяе Русі, сам узначаліў паход на Маскву, расійскія ваяводы здавалі «на імя царскае» гарады, але вычарпаныя баявыя рэсурсы і вял. страты ў людзях прымусілі абодва бакі пайсці на перагаворы. Паводле *Дзявулінскага перамір'я 1618* да ВКЛ адышлі землі Смаленшчыны з г. Белая, Дарагабуж, Сярпейск, Рослаў, Старадуб і Трубчэўск, да Польшчы — Чарнігаў, Ноўгарад-Северскі, Глухаў, Лебядзін і Ахтырка на Украіне. Каралевіч Уладзіслаў захаваў тытул расійскага цара, але і Міхаіл Фёдаравіч застаўся на троне.

Адной з прычын няўдалых паходаў у Расію была пастаянная напружанасць ва ўзаемаадносінах з Аўстрыяй, Малдавіяй, Крымам і Турцыяй. У 1620 у бітве каля Цацоры на р. Прут (каля Ясаў у Румыніі) польскае войска было разбіта турэцка-татарскай арміяй, але ў 1621 у бітве пад Хацінам на Украіне турэцкае войска вымушана было адступіць. Пасля смерці Жыгімонта Вазы польскім каралём і вял. князем літ. 8.11.1632 аднагалосна выбраны яго сын Уладзіслаў Ваза [1632—48]. Выкарыстаўшы міжуладдзе ў Рэчы Паспалітай, цар Міхаіл Фёдаравіч пачаў *вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1632—34*. Расійскія войскі асадзілі Смаленск, але горад вытрымаў аблогу. Маскоўская армія была акружана польскімі і бел.-літ. войскамі на чале з каралём і капітулявала. *Паляноўскі мір 1634* пацвердзіў умовы Дзявулінскага перамір'я аб пераходзе Смаленскага ваяводства ў склад ВКЛ. Кароль Уладзіслаў быў вымушаны адмовіцца ад тытула расійскага цара.

У канцы 16 — пач. 17 ст. ўскладнілася становішча на Украіне. Інкарпарацыя ўсх. укр. ваяводстваў Польшчай стварыла магчымасці для пранікнення на Украіну польскай шляхты і каталіцкага духавенства, што прывяло да запрыгонення дзесяткаў і соцень тысяч укр. сялян, узмацнення нац. прыгнёту

і рэлігійных супярэчнасцей. Няўстойлівая пазіцыя праваслаўнай царквы і яе аўтарытэт сярод сялян, мяшчан і казакоў садзейнічалі канфрантацыі, асабліва з боку казацтва, якое было абмежавана ў правах і хацела пазбавіцца кантролю з боку польскіх улад. У канцы 16 ст. адбыўся шэраг казацкіх выступленняў і паўстанняў, да якіх далучаліся найб. смелыя, актыўныя і вольналюбівыя сяляне. Казакі выступалі як абаронцы «простага народу» («людзей паспалітых») — сялян і гараджан. Але нярэдка, асабліва калі вярталіся з паходаў у Прыбалтыку праз Беларусь, казакі рабавалі і забівалі насельніцтва, гвалцілі жанчын і дзяўчат, палілі дамы. Адным з самых буйных антыфеад. казацка-сялянскіх выступленняў на Украіне і паўд. Беларусі было *Налівайкі паўстанне 1594—96*. Адступаючы пад націскам 7-тысячнага войска рэестравых (запісаных на каралеўскую службу) казакоў, паўстанцы адышлі на Палессе, дзе да іх далучыліся мясц. сяляне, мяшчане і дробная шляхта, захапілі Петрыкаў і Слуцк. Пасля паражэння пад Капылём 2-тысячны атрад казакоў і сялян заняў Магілёў, але пасля Буйніцкай бітвы 1595 паўстанцы зноў адступілі на Палессе і праз Тураў і Пінск адышлі на Валынь. Пасля задушэння польскімі войскамі некалькіх казацка-сялянскіх паўстанняў (1625, 1630, 1635, 1637 і 1638) на Украіне настаў перыяд зацішша, які шляхта называла гадамі «залатога спакою». У 1638 сейм Рэчы Паспалітай зацвердзіў «ардынацыю (статут) войска запарожскага рэестравага на службе Рэчы Паспалітай», вызначыўшы рэестр у 6 тыс. казакоў з ільготамі і прывілеямі да іх. У казацкім руху адбыўся раскол, таму казацка-сялянскія паўстанні былі накіраваны не толькі супраць нац.-рэлігійнага прыгнёту, але таксама супраць казацкай старшыны, а часам і супраць рэестравага казацтва. На Беларусі не было такой выбуховай сітуацыі, як на Украіне, таму казацкія загоны, што прыходзілі з Украіны, станавіліся каталізатарам паўстанцкага руху, адбываўся своеасаблівы «экспарт рэвалюцыі».

У апошнія гады жыцця Уладзіслаў Ваза распрацоўваў планы вял. вайны супраць Турцыі і Крымскага ханства, якія рабілі набегі на ўкр. і польскія землі. Ён разлічваў на саюз з Расіяй і на ўкр. казацтва, але гэта выклікала незадавальненне магнатаў і заможнай шляхты, якія абвінавацілі караля ў падрыхтоўцы дзярж. перавароту. Уладзіслаў вымушаны быў адмовіцца ад планаў вайны з Турцыяй. А казакі тым часам працягвалі рыхтавацца да вайны, толькі супраць польскай шляхты. У студз. 1648 гетманам запарожскага войска быў выбраны Багдан Хмяльніцкі, які заключыў саюзны дагавор з крымскім ханам і на чале казацкага войска і 4-тысячнага атрада крымскіх татар разграміў поль-

скія войскі каля Жоўтых Водаў і Корсуня, што стала сігналам для нар. паўстання па ўсёй Украіне. Пачалася *антыфеадальная вайна 1648—51.* 20.5. 1648 памёр кароль Уладзіслаў, скарыстаўшы перыяд міжуладдзя, казацкія войскі занялі ўсю Левабярэжную Украіну. 20.11.1648 новым каралём і вял. князем літ. быў выбраны малодшы брат Уладзіслава Ян Казімір [1648—68], які заключыў з Хмяльніцкім пераміp'е.

У дачыненні да Беларусі ў Хмяльніцкага былі асобныя планы. Ён хацеў адцягнуць ад наступлення на Украіну бел.-літ. войска і звязаць яго ваеннымі дзеяннямі на тэр. Беларусі, а пры складванні спрыяльнай сітуацыі спадзяваўся далучыць частку Беларусі (асабліва Палессе і Падняпроўе) да Украіны пад эгідай праваслаўнай царквы. Улетку 1648 на Пд Беларусі паявіліся казацкія загоны Галавацкага, А. Нябабы, Крывашапкі, Гаркушы, Міхненкі, Паддубскага і інш., якія рабавалі панскія маёнткі, касцёлы і манастыры, знішчалі фінансавыя дакументы, забівалі каталіцкіх святароў і манахаў. Да казакоў далучаліся сяляне і частка гараджан, паўстанцы захапілі Гомель, Лоеў, Брагін, Мазыр, Тураў, Пінск, Бабруйск. У канцы 1648 у раёне Бярэсця сабралася бел.-літ. войска пад камандаваннем гетмана польнага Я. Радзівіла, якое, рухаючыся ўздоўж Прыпяці на У, авалодала Туравам, Мазыром, Бабруйскам, Рэчыцай. Вясной 1649 на Беларусь зноў былі накіраваны казацкія атрады Галоты, Падбайлы, Гаркушы, цераз Дняпро пераправіўся вял. казацкі атрад Міхаіла Крычэўскага, да якога далучыліся сяляне. 31.7.1649 аб'яднанае казацка-сялянскае войска Крычэўскага было акружана, але з вял. стратамі (загінуў і сам Крычэўскі) часткова выйшла з аблогі. У 1650 у паўд. раёнах Беларусі адбываліся адзінкавыя сялянскія паўстанні. У 1651 зноў пачаліся паўстанні ў раёнах Мсціслава, Прапойска, Чачэрска і Горваля, якія былі задушаны бел.-літ. войскам, бо на дапамогу ім ужо ніхто не прыйшоў. У ліп. 1651 войска Радзівіла накіравалася на Украіну, па дарозе каля лоеўскіх пераправаў разграміла 15-тысячнае казацкае войска М. Нябабы (сам Нябаба загінуў) і заняло Кіеў (гл. *Лоеўская бітва 1651*). На Украіне яшчэ адбываліся бітвы ў 1652 і 1653, у кастр. 1653 земскі сабор у Маскве прыняў пастанову аб далучэнні Левабярэжнай Украіны да Расіі, а ў студз. 1654 Пераяслаўская рада зацвердзіла гэту пастанову.

Улетку 1654 пачалася *вайна Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67.* Маскоўскі цар старанна рыхтаваўся да вайны, таму выставіў 80—83 тыс. чал. супраць 10-тысячнага польскага і бел.-літ. войска. Расійская армія заняла Дарагабуж, Рослаў, Мсціслаў, Шклоў, Оршу, аблажыла і праз 3 месяцы ўзяла Смаленск, пасля працяглага супраціўлення Дуброўну. Казакі І. Залатарэнкі занялі Гомель, Чачэрск, Новы Быхаў і аблажылі Стары Быхаў, 24 жн. здаўся Магілёў. На Пн Беларусі армія В. П. Шарамецева заняла Невель, Полацк, Дзісну, Друю, Усвят, у ліст. 1654 Віцебск. Расійскія войскі наступалі таксама ў Ліфляндыі і на Украіне разам з укр. казакамі. У канцы 1654 —пач. 1655 войскі Радзівіла, А. Ганcеўскага, П. Сапегі, Глябовіча, Аскеркі перайшлі ў наступленне: у снеж. 1654 знята аблога Старога Быхава і ў горад уведзены новыя падмацаванні, вызвалены Копысь, Дуброўна і Орша, зроблена спроба заняць Магілёў. Улетку 1655 расійскае войска і казакі І. Залатарэнкі правялі паспяховае наступленне на Беларусі і ў Літве: была занята ўся цэнтральная і значная частка зах. Беларусі. Зноў былі захоплены Дуброўна, Орша, Копысь, у ліп. мястэчка Свіслач (пры сутоках Свіслачы з Бярэзінай), Барысаў, Менск, у жн. Вільня, Гародна і Коўна, казацкія атрады занялі Прынямонне. Армія А. М. Трубяцкога не здолела авалодаць Старым Быхавам і Слуцкам, затое рэйдам прайшла па Беларусі, заняла і спаліла Клецк, Ляхавічы, Мыш, Стваладвічы, Слонім, Навагародак, дзе злучылася з казацкім атрадам В. Залатарэнкі, і на зваротным шляху спаліла Нясвіж, Капыль, безвынікова імкнулася авалодаць Слуцкам. На Пд атрад Валконскага захапіў, абрабаваў і спаліў Тураў, Давыд-Гарадок, Столін і Пінск. У час ваенных дзеянняў былі разрабаваны і спалены многія гарады і вёскі, шмат людзей загінула або трапіла ў палон, дзесяткі тысяч сялян, тысячы гараджан былі вывезены ў Расію.

Летам 1655 армія шведскага караля Карла X Густава напала на Польшчу і неўзабаве амаль уся тэр. дзяржавы (за выключэннем усх. і укр. ваяводстваў і часткі Жамойці) была занята шведамі. Шведскі кароль прапанаваў цару Аляксею Міхайлавічу план падзелу Рэчы Паспалітай, аддаючы яму укр. землі ад Галіча або Львова праз Луцк да Прыпяці, далей тэрыторыі па лініі Слуцк — Менск — Докшыцы —. Дзісна, але цар адмовіўся ад гэтага плана, бо расійскія войскі паспяхова захоплівалі бел. землі. Частка феад. знаці вырашыла захаваць дзяржаўнасць ВКЛ у саюзе са Швецыяй. 20.10.1655 Януш Радзівіл, яго стрыечны брат Багуслаў Радзівіл з вял. групай паноў і шляхты (гал. чынам з Жамойціі) заключылі *Кейданскі дагавор 1655* аб уніі ВКЛ са Швецыяй, прызнаючы караля Карла X Густава вял. князем літоўскім. Шляхце і каталіцкай царкве пакідаліся ранейшыя прывілеі. Частка шляхты выказалася за Аляксея Міхайлавіча ў якасці вял. князя літ., частка шляхты працягвала барацьбу з расійскімі і шведскімі войскамі, выступаючы за захаванне дзярж. уніі з Польшчай. Рыхтуючыся да вайны са Швецыяй за Прыбалтыку, расійскі цар заключыў з Рэччу Паспалітай *Віленскае перамір'е 1656.*

На захопленай тэр. Беларусі была ўстаноўлена расійская адміністрацыя, у буйныя гарады былі прызначаны расійскія ваяводы. Шляхце, якая прысягнула цару, расійскі ўрад захаваў маёнткі і саслоўныя правы. Тыя шляхцічы, што аказвалі супраціўленне ў час абароны або былі ўзяты ў палон, пазбаўляліся маёнткаў. За праваслаўнай царквой захоўваліся ўсе ўладанні і правы. Была забаронена дзейнасць рымска-каталіцкай і уніяцкай цэркваў, зачынены касцёлы і кляштары, каталіцкія навуч. ўстановы. Гарады Беларусі, разрабаваныя і абязлюджаныя, атрымалі

Да арт. **Вялікае княства Літоўскае.** Мірскі замак (Карэліцкі р-н). 16 ст.

граматы на дазвол рамесніцка-гандлевай дзейнасці, маскоўскі ўрад на час вайны нават захаваў у гарадах з магдэбургскім правам самакіраванне і гар суд, але пад кантролем расійскага ваяводы. Значна пагоршала становішча сялян у выніку захопу іх для адпраўкі ў маенткі Расіі, а таксама на продаж у расійскіх гарадах або на вываз у азіяцкія краіны. Сяляне, якіх раздавалі шляхце, абкладаліся дадатковымі павіннасцямі — так новыя гаспадары імкнуліся кампенсаваць свае страты ў час вайны. Украінская старшына намагалася далучыць усх. частку Беларусі да гетманскай Украіны Казацкія войскі ўзначальваў І. *Нячай*, пасля *Гадзяцкага дагавору 1658* Нячай з казакамі перайшоў на бок Рэчы Паспалітай і заняў значную частку ўсх Беларусі (Быхаў, Чавусы, Мсціслаў, Рослаў і інш.) і паўд. раёны. 4(14).2.1659 расійскія войскі штурмам узялі Стары Быхаў, дзе знаходзіўся апорны пункт казакоў Нячая, і жорстка расправіліся з кіраўнікамі казацкіх атрадаў. І толькі па просьбе новага гетмана Украіны Ю. Хмяльніцкага Нячай быў памілаваны і высланы ў Табольск.

Увосень 1659 на Беларусь была кінута моцная расійская армія пад камандаваннем І. А. Хаванскага, якая ў снеж. авалодала Гародняй, а 15.1 1660 заняла Бярэсце, у сак. 1660 аблажыла ўмацаваную крэпасць П Сапегі — Ляхавічы. Аб'яднанае бел.-літ. войска пад камандаваннем П. Сапегі і польскае войска пад камандаваннем С. Чарнецкага 18(28).6.1660 каля Палонкі (Слонімскі пав.) атрымала перамогу над арміяй Хаванскага. 3 7.1660 войскі Сапегі і Чарнецкага занялі Менск, была вызвалена тэр. Беларусі на З ад Бярэзіны. Хаванскі з рэшткамі войска пацярпеў паражэнне каля Чарэі і адступіў у Полацк. 8.10.1660 аб'яднаныя бел.-літ і польскае войскі сустрэлі расійскае войска Ю А. Далгарукава каля Чавус і не дапусцілі аб'яднання яго з войскамі Хаванскага, Далгарукі адступіў да Смаленска. 2(12).2.1661 гараджане Магілева за адну ноч знішчылі 3-тысячны гарнізон стральцоў, такія ж паўстанні адбыліся ў Дзісне, Себежы, Гомелі і інш. гарадах. 2.12.1661 была вызвалена Вільня. Потым ваенныя дзеянні прыпыніліся на 2 гады, бо больш чым палове войска не выплацілі жалавання. Але Расія ўжо не магла скарыстаць сітуацыю Паводле *Андросаўскага перамір'я 1667* Расія захавала Смаленскае ваяводства, Левабярэжную Украіну і Кіеў. Расія не змагла ўтрымаць усе заваяванае, а Рэч Паспалітая не здолела вярнуць усе свае землі. Вайна 1654—67 з'явілася нац. трагедыяй бел. народа Большасць гарадоў, весак і мястэчак была разрабавана і зруйнавана, сельская гаспадарка, рамествы і гандаль прыйшлі ў заняпад. Колькасць насельніцтва Беларусі скарацілася напалову (у 1650 на Беларусі жыло 2,9 млн. чал., у 1667—73 — 1,4 млн. чал.). Расчараваны няўдачамі кароль Ян Казімір 16 9. 1668 адрокся ад трона і выехаў у Францыю, дзе памер праз 4 гады. 19.6.1669 каралем польскім і вял. князем літ. выбраны Міхал Карыбут Вішнявецкі [1669—73], вылучэнец прааўстрыйскай групоўкі магнатаў і шляхты. Паводле пастановы сойму 1673, кожны трэці сойм (акрамя тых, якія выбіралі караля) збіраўся «ў Вялікім княстве Літоўскім у горадзе Гродне». У 1660 — 1-й пал. 1670-х гадоў у ВКЛ найбольшага паліт. ўплыву дамагліся Пацы, прыхільнікі шляхецкай прааўстрыйскай групоўкі. Яны прызначаліся каралем на найбольш важныя дзярж. пасады. Пасля смерці Міхала Карыбута Вішнявецкага польскім каралем і вял. князем літ. 8.5.1674 выбраны палкаводзец Ян Сабескі [1674—96], якога падтрымлівалі магнаты і шляхта прафранцузскай арыентацыі, таму супраць кандыдатуры караля спачатку вельмі моцна выступала «літоўская групоўка» на чале з Пацамі

Ян Сабескі давеў вайну з Турцыяй і яе васалам — Крымам — да перамогі. Паводле Журавінскага міру 1676 да Польшчы (на тэр. Украіны) былі далучаны Белацаркоўская і Павалоцкая акругі, Падолія засталася ў туркаў. У выніку новай вайны з Турцыяй 1683—99 Падолія і частка Правабярэжнай Украіны вернуты Польшчы *«Вечны мір» 1686* паміж Рэччу Паспалітай і Расіяй замацоўваў дзярж. граніцу паміж краінамі (Кіеў і Смаленск пакідаліся Расіі) і ствараў умовы для сумесных дзеянняў супраць Турцыі і Крымскага ханства. Аднак тлумачэнне

Да арт **Вялікае княства Літоўскае.** Руіны Гальшанскага замка (Ашмянскі р-н) 17 ст

Да арт **Вялікае княства Літоўскае.** Будслаўскі касцел бернардзінцаў (Мядзельскі р-н) Алтар 17 ст

9-га артыкула дагавору расійскім бокам, дзе гаварылася, што праваслаўным цэрквам, манастырам і брацтвам «ніякага ўціску і да веры рымскай і да уніі прымусу» не будзе, давала царызму права пастаянна ўмешвацца ва ўнутраныя справы Рэчы Паспалітай на працягу 18 ст Гэты дагавор быў сустрэты непрыхільна і ратыфікаваны толькі ў 1710, калі расійскія войскі знаходзіліся на тэр. Рэчы Паспалітай. Пасля выбрання каралем Яна Сабескага Пацы ўзначалілі супраць яго апазіцыю. Ян Сабескі падтрымаў Сапегаў і Агінскіх, якія выступалі супраць Пацаў. Сапегі атрымалі ад караля высокія пасады. Умацаваўшы свае становішча, яны выступалі супраць караля, маючы намер узначаліць самастойнае ВКЛ Сваю палітыку Сапегі праводзілі феад. мерамі, з гвалтам і задушэннем апазіцыі, і прайгралі. Супраць Сапегаў у 1696 пачалася адкрытая барацьба бел. і літ шляхты, якую ўзначаліў вял. харужы літ. Р. Агінскі. Выкарыстаўшы смерць Яна Сабескага (17.6.1696), Агінскі падтрымаў прэтэнзіі на трон сям'і Сабескіх. Утварылася канфедэрацыя. Шляхце ВКЛ удалося правесці на канфедэрацыйным сойме 29.8.1696 канчатковае ўраўнаванне яе правоў з правамі польскай шляхты Гэтай жа пастановай замест афіцыйнай бел. мовы ў дзярж. установах уводзілася польская мова. 27.6.1697 каралем польскім і вял. князем літ. быў выбраны *Аўгуст II* Моцны [1697—1733], курфюрст Саксоніі, падтрыманы Расіяй і Аўстрыяй. Ён імкнуўся прымірыць варожыя бакі на Беларусі, але канфлікт паміж Сапегамі і большай часткай шляхты («рэспубліканцамі») набыў характар грамадзянскай вайны. У ліст 1700 пад Алькенікамі (каля Вільні) у рашаючай бітве атрады шляхты разбілі войскі Сапегаў. Прыхільнікі караля на чале з Агінскім прапанавалі праект аддзялення ВКЛ ад Польшчы і стварэння спадчыннай манархіі для Аўгуста II і яго нашчадкаў. Гэта скарыстаў Аўгуст II і ўвеў у ВКЛ саксонскія войскі для «прымірэння бакоў», а таксама быццам бы для аховы гэтых зямель ад шведаў

Аўгуст II уступіў у *Паўночную вайну 1700—21* як саюзнік Пятра I і як курфюрст Саксоніі, Рэч Паспалітая спачатку ў вайне ўдзелу не прымала. Пасля разгрому расійскай арміі пад Нарвай у ліст. 1700 шведскі кароль Карл XII накіраваў свае войскі ў межы Рэчы Паспалітай, у пач. 1702 яны разрабавалі Гародню і навакольныя вёскі і мястэчкі, потым пайшлі ў Польшчу. А ў ВКЛ працягвалася барацьба паміж большай часткай шляхты і Сапегамі, якія перайшлі на бок шведаў. Сапегі арганізавалі казацка-сялянскія атрады на чале з Юрэвічам, Більдзюкевічам і Хмарай, што дзейнічалі ва ўсх. частцы Беларусі (Дуброўна, Галоўчын, Быхаў), пакуль не былі разбіты ў лют. 1702. Прадстаўнікі шляхты ў 1702 падпісалі дагавор з Расіяй, паводле якога Пётр I абяцаў ваенную і грашовую дапамогу ВКЛ. Склíканая вясной 1703 генеральная канфедэрацыя ВКЛ абвясціла саюз

Да арт **Вялікае княства Літоўскае.** Воўпаўскі касцел Яна Хрысціцеля (Ваўкавыскі р-н) Галоўны алтар 17 ст

з Расіяй У Польшчы была створана Сандамірская канфедэрацыя 1704 супраць шведаў. Карл XII арганізаваў канфедэрацыю, якая 13.7.1704 выбрала каралем польскім і вял князем літ пазнанскага ваяводу Станіслава *Ляшчынскага* Увосень 1704 60-тысячная расійская армія пад камандаваннем А. І. Рапніна ўступіла ў Беларусь, да лета 1705 частка арміі заняла Гародню, другая частка размясцілася каля Менска. Карл XII вярнуўся з Польшчы і аблажыў Гародню, але расійскаму войску ў сак. 1706 удалося вырвацца з Гародні і праз Бярэсце адысці ў Кіеў. Шведскае войска разам з атрадамі К. А. Сапегі прайшло па цэнтральнай Беларусі, руйнуючы маенткі шляхты. Пацярпеўшы паражэнне, Аўгуст II паводле ўмоў Альтранштацкага дагавора 1706 адмовіўся ад кароны на карысць Станіслава Ляшчынскага, на бок якога перайшлі магнаты Радзівілы, Пацы, Вішнявецкія і частка шляхты. Аднак Сандамірская канфедэрацыя і канфедэрацыя ВКЛ не прызналі гэтага дагавора, іх падтрымлівалі Петр I. У студз. 1708 шведскія войскі зноў уступілі на Беларусь, занялі Гародню і рушылі на Смаргонь У ноч на 4(15).7.1708 каля мястэчка Галоўчын (Аршанскі пав.) адбылася бітва паміж расійскімі і шведскімі войскамі, у выніку якой корпус Рапніна быў разбіты, а сам ён быў разжалаваны ў радавыя салдаты. 28.9(9.10).1708 каля в. Лясная армія Пятра I разграміла шведскі корпус графа А. Левенгаўпта (гл. *Бітва пад Лясной 1708)* Пасля перамогі расійскіх войск пад Палтавай 27.6(8.7). 1709 ваенныя дзеянні на тэр. Беларусі адбываліся паміж расійскімі войскамі і канфедэратамі і прыхільнікамі Станіслава Ляшчынскага. Аўгуст II вярнуўся ў Польшчу і зноў заключыў саюз з Пятром I. Вайна прычыніла вял страты Беларусі, шмат якія гарады былі спалены, колькасць насельніцтва зменшылася (з 2,2 млн. чал да вайны да 1,5 млн. пасля вайны). Неўзабаве пасля вяртання Аўгуста II на Беларусі пачалася барацьба паміж прыхільнікамі Людвіка Пацея, які фактычна сканцэнтраваў у сваіх руках уладу ў ВКЛ, і прыхільнікамі караля на чале з польным гетманам літ. Станіславам Дэнгофам. Пацея падтрымлівалі Агінскія і інш. магнаты, караля — Расія і Прусія. Створаная *Віленская канфедэрацыя 1716* выступіла супраць абсалютысцкіх планаў караля. Аднадзенны «нямы» сойм (1.2.1717) абмежаваў уладу караля і гетманаў, пацвердзіў права liberum veto, польская армія скарачалася да 18 тыс. чал., войска ВКЛ — да 6 тыс чал. 1.2 1733 памер кароль Аўгуст II Моцны, 12.9.1733 шляхта выбрала каралем і вял. князем літ. Станіслава Ляшчынскага, былога караля, стаўленіка Францыі (цесця франц. караля Людовіка XV), але гэта не адпавядала інтарэсам Расіі. На тэр. Рэчы Паспалітай былі ўведзены расійскія войскі, расійскія вайскоўцы і дыпламаты арганізавалі новыя выбар, і 5.10.1733 новым каралем і вял. князем літ. быў выбраны Аўгуст III [1733—63], курфюрст Саксоніі, сын Аўгуста II У час яго кіравання адбывалася далейшае паглыбленне паліт. крызісу Рэчы Паспалітай, соймы пастаянна зрываліся, што паралізавала дзейнасць цэнтральнай улады. Пасля рэформы рус. праваслаўнай царквы і расколу царквы ў раене Веткі пасяліліся шмат расійскіх раскольнікаў (стараверáў) У 1735 па загадзе расійскай імператрыцы Ганны Іванаўны 5 палкоў расійскіх войск гвалтоўна ўварваліся на Беларусь, будынкі манастыроў, цэркваў і жылыя будынкі раскольнікаў былі спалены, а больш за 13 тыс. чал выселены ў Сібір (1-е «выгнанне»), у 1764 па загадзе Кацярыны II акцыя паўтарылася, 20 тыс. раскольнікаў былі выселены ў Сібір (2-е «выгнанне»).

Пасля смерці Аўгуста III (5.10.1763) па прапанове Кацярыны II 7.9 1764 быў выбраны апошні кароль польскі і вял князь літ. Станіслаў Аўгуст *Панятоўскі* [1764—95], які пачаў праводзіць палітыку памяркоўных рэформ дзярж. ладу, што выклікала незадаволенасць Расіі і Прусіі Карыстаючыся правамі абароны праваслаўных у Рэчы Паспалітай, Кацярына II і прускі кароль Фрыдрых II, якія да яе далучыўся, выставілі праект ураўнавання ў правах шляхты — дысідэнтаў (некатолікаў) з каталіцкай шляхтай, але сойм адхіліў гэты праект. Тады расійскія войскі былі зноў уведзены ў Рэч Паспалітую. Пры падтрымцы расійскага пасла кн. М. В. Рапніна дысідэнты ў 1767 стварылі пратэстанцкую канфедэрацыю ў Торуні і кальвіністска-праваслаўную *Слуцкую канфедэрацыю 1767*, якія імкнуліся ўраўнаваць

правы дысідэнцкай шляхты з каталіцкай. Канфедэраты адразу ж былі прыняты пад «найвысачэйшую пратэкцыю» Кацярыны II, якая прыслала ім на дапамогу 40-тысячную армію. Сойм пад націскам Расіі ў 1768 згадзіўся прыняць пастанову аб ураўнаванні правоў некаталіцкай шляхты з каталіцкай. Патрыятычна настроеная шляхта і праціўнікі ўраўнавання правоў арганізавалі *Барскую канфедэрацыю 1768*, якая выступала за цэласнасць і незалежнасць дзяржавы. Атрады канфедэратаў дзейнічалі ў Берасцейскім і Мсціслаўскім ваяводствах, Ашмянскім, Аршанскім, Браслаўскім і Ваўкавыскім паветах У кастр 1768 расійскія войскі разграмілі канфедэратаў пад Дзярэчынам (Слонімскі пав.) і занялі Нясвіжскую і Слуцкую крэпасці. У 1769 атрад канфедэратаў перамог расійскія войскі пад Бераставіцай, Слонімам, Мышшу. У чэрв. 1770 з Літвы на Беларусь перайшоў атрад Ш. Касакоўскага, ён дзейнічаў у раёне Мядзела, Радашковіч, Менска. Зноў узнялася на барацьбу шляхта ў Ашмянскім і Браслаўскім паветах, у Мсціслаўскім і Полацкім ваяводствах. Неўзабаве атрад Касакоўскага быў разбіты пад Навагародкам. У вер. 1771 на бок канфедэратаў перайшоў гетман вял. літ М. К Агінскі, але яго 3-тысячны атрад быў разбіты А. В. Суворавым пад Сталавічамі Разгром барскіх канфедэратаў даў магчымасць прыступіць да *першага падзелу Рэчы Паспалітай* 25.7(5.8).1772 у Пецярбургу была падпісана сакрэтная канвенцыя паміж Расіяй і Прусіяй, да якой пазней далучылася Аўстрыя (гл. *Пецярбургскія канвенцыі 1770—90-х гадоў*). Паводле канвенцыі, Прусія атрымала паўн.-зах частку Польшчы, Аўстрыя атрымала паўд частку Польшчы і большую частку зах. Украіны са Львовам. Расіі адышлі тэрыторыі, якія яна хацела ўзяць яшчэ ў 1763 — землі ўсх. і паўн. Беларусі на Пн ад Зах. Дзвіны, на У ад Друці і Дняпра, а таксама Інфлянцкае ваяводства. У 1770 — 80-я гады ўрад Рэчы Паспалітай правеў некаторыя рэформы, накіраваныя на паляпшэнне гандлю і прававога становішча гараджан, развіццё прамысловасці. Была створана *Адукацыйная камісія*, рэарганізавана сістэма адукацыі. Патрыятычныя колы правялі на *Чатырохгадовым сойме 1788—92* некалькі хоць і палавінчатых, але наспелых рэформ. У 1791 сойм змяніў адм. падзел у дзяржаве (з 34 паветаў у ВКЛ 20 было на тэр. Беларусі) Была прынята *Канстытуцыя 3 мая 1791*, якая захавала правы і прывілеі шляхты, аднак падкрэслівала неабходнасць збліжэння яе з мяшчанствам Сялянскае саслоўе абвяшчалася пад заступніцтвам закону, але пры існаванні дагавору сялян з панам прыгоннае права не адмянялася «Ліберум вета» і канфедэрацыі скасоўваліся, усе рашэнні на сойме павінны былі прымацца большасцю галасоў. Канстытуцыя абвяшчала ўтварэнне унітарнай дзяржавы, аднак у ВКЛ захоўваліся асобныя дзярж. пасады, працягвала існаваць бел.-літ войска. У склад каронная і літ войска былі ўключаны войскі магнатаў. Канстытуцыя мела прагрэсіўны характар, яна ліквідавала феад. анархію і стварала спрыяльныя ўмовы для развіцця капіталістычных адносін. Рэакцыйныя колы магнатаў, а таксама беззямельная шляхта, якая была пазбаўлена выбарчых правоў, звярнуліся да Кацярыны II з просьбай аб дапамозе ў барацьбе супраць Канстытуцыі 3 мая. У Пецярбургу пад наглядам імператрыцы 27.4.1792 складзены акт канфедэрацыі, і да граніцы з Рэччу Паспалітай перакінуты расійскія войскі Калі акт *Таргавіцкай канфедэрацыі 1792* быў апублікаваны ў пагранічным мястэчку на Украіне, адразу група канфедэратаў разам з расійскімі войскамі перайшла граніцу Рэчы Паспалітай (Прусія таксама ўвяла свае войскі) На працягу мая — ліпеня былі заняты Браслаў, Ушачы, Бабруйск, Нясвіж, Навагрудак, Слонім і Гродна. Баі адбываліся каля Опсы (пад Браславам), каля Міра 11.6.1792 быў разбіты корпус Ю. Юдзіцкага, 3 ліп. адбылася бітва пад Зэльвай, 10 ліп.— пад Мсцібавам. Пасля бітвы пад Брэстам (23 ліп.) літ. войска адступіла за Буг, 24 ліп да Таргавіцкай канфедэрацыі далучыўся кароль. У пач. верасня абедзве канфедэрацыі (літ. і польская) аб'ядналіся. Канстытуцыя і інш. рэформы Чатырохгадовага сойма адмяняліся. Таргавіцкая канфедэрацыя фактычна падрыхтавала *другі падзел Рэчы Паспалітай* 12(23). 1.1793 у Пецярбургу падпісана новая канвенцыя паміж Расіяй і Прусіяй Апошняя атрымала зах. частку польскіх зямель з г. Познань, Торунь, Плоцк і Каліш. Расія ўзяла сабе цэнтральную частку Беларусі з г. Барысаў, Менск, Бабруйск, Слуцк, Пінск і Мазыр, а таксама Правабярэжную Украіну У Рэчы Паспалітай засталася частка польскіх зямель, Зах. Беларусь, Падляшша, Літва і Курляндыя. Гродзенскі сойм 1793 («нямы сойм») маўкліва прыняў рашэнне аб другім падзеле Рэчы Паспалітай Асн. маса магнатаў, шляхты і духавенства прысягнулі Кацярыне II, аднак патрыятычныя колы шляхты і мяшчан, шматлікая дробная шляхта, прагрэсіўнае афіцэрства і духавенства зрабілі спробу захаваць незалежнасць дзяржавы, вярнуць страчаныя тэрыторыі і працягваць прагрэсіўныя рэформы.

24 3.1794 на кракаўскім рынку быў абвешчаны акт *паўстання 1794*, начальнікам якога стаў генерал Т. *Касцюшка*, па паходжанні бел. шляхціц з Берасцейскага пав. У крас. да паўстання далучыліся Літва і Беларусь. 16.4 1794 у Шаўлях паднялі паўстанне часці літ. войска, у ноч на 23 крас. паўстанне пачалося ў Вільні, тут дзейнічала тайная паўстанцкая арганізацыя — *«віленскія якабінцы»* 23 крас ўтворана *Найвышэйшая Літоўская рада* — часовы рэв. ўрад Літвы і зах. Беларусі Спачатку паўстанне мела некаторы поспех, 28 крас. ў Гродне было створана мясцовае кіраванне, у крас.— маі ўстаноўлена паўстанцкая ўлада ў Брэсце, Ваўкавыску, Слоніме, Навагрудку, Пінску, Ашмянах, Кобрыне, Лідзе, Браславе У маі да паўстання далучылася значная частка шляхты, падскарбі вялікі літ. М. К. Агінскі далучыўся да паўстання разам з узброеным пяхотным палком. Сяляне верылі Найвышэйшай радзе, якая абяцала ліквідаваць прыгоннае права, прынялі ўдзел у паўстанні або дапамагалі паўстанцам. 7.5.1794 *Паланецкім універ-*

Да арт **Вялікае княства Літоўскае.** Гродзенскі касцел і кляштар езуітаў 17—18 ст Літаграфія з акварэлі Н Орды 1870-я гады

*салам* Касцюшка абвясціў сялян свабоднымі, але зямлю пакідаў панам, ператвараючы сялян у арандатараў. Асноўная маса заможнай шляхты сабатавала гэты універсал, што адштурхнула сялян ад паўстання. У Літве і зах. Беларусі расійскія генералы абвясцілі амністыю сялянам-паўстанцам, каб адцягнуць іх ад паўстання. Ім таксама абяцалі перадаць маёнткі паноў — удзельнікаў паўстання. Сялянскі рух і тут паменшаў. Акрамя таго, паміж Касцюшкам і Найвышэйшай Літоўскай радай, больш радыкальнай, чым *Найвышэйшая нацыянальная рада* ў Варшаве, узніклі супярэчнасці. Касцюшка абвінаваціў Раду ў дзеяннях супраць «уніі братніх народаў», распусціў яе і ўтварыў *Цэнтральную дэпутацыю Вялікага княства Літоўскага*, якая складалася з больш памяркоўных элементаў (з жн. да кастр. знаходзілася ў Гродне). У чэрв.— жн. найбольш актыўныя дзеянні адбываліся на Гродзеншчыне і Віленшчыне. 25.6.1794 бел.-літ. войска пацярпела паражэнне пад Соламі (Ашмянскі пав.), расійскія войскі авалодалі ініцыятывай. У жн. атрад С. Грабоўскага прабіўся ў Менскую губ., але ў час Любанскага бою 1794 быў разбіты і капітуляваў. Разгром паўстання на Беларусі давяршыў корпус Суворава (12 тыс. чал.), які нанёс паражэнне 17 вер. корпусу К. Сераказоўскага і атраду К. Князевіча (5 тыс. чал.) у час *Крупчыцкага бою 1794*. Для мабілізацыі шляхты і мяшчан 30 вер. ў Гродна прыбыў Касцюшка, тут было сфарміравана новае войска, але лёс паўстання быў прадвырашаны. Суvoраў нанёс паражэнне паўстанцам у *Мацяевіцкай бітве 1794* (10.10.1794), дзе паранены Касцюшка трапіў у палон. Паўстанне 1794 закончылася паражэннем, Рэч Паспалітая была акупіравана расійскімі, прускімі, потым і аўстрыйскімі войскамі. 13(24).10.1795 у Пецярбургу была падпісана канвенцыя аб *трэцім падзеле Рэчы Паспалітай*. Расія далучыла да сваіх уладанняў землі зах. Беларусі, частку Літвы (на Пн ад Коўна) і Курляндыю. Мазовія з Варшавай, Падляшша (з Беластокам і Бельскам) і Літва (на Пд ад Нёмана) былі аддадзены Прусіі. Аўстрыя атрымала Малую Польшчу з Кракавам і Люблінам і паўд. частку Падляшша, а таксама зах. частку Берасцейскага ваяводства. Кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі 25.11.1795 адмовіўся ад трона на карысць Кацярыны II і быў перавезены ў Гродна. Федэратыўная дзяржава Рэч Паспалітая і абедзве краіны ў яе складзе — ВКЛ і Польшча — спынілі сваё дзярж. існаванне. *А. П. Грыцкевіч*

**Дзяржаўны і палітычны лад.** Дзяржаўная будова ВКЛ у 13—14 ст. усталёўвалася на феад. садружнасці і залежнасці мясц. князёў ад вялікага князя цэнтральнай зямлі. Дзярж.-прававыя адносіны паміж паліт. цэнтрам і прылеглымі да яго землямі трымаліся на асабістай залежнасці мясц. князёў ад вял. князя. Цэнтр. частку дзяржавы ў паліт. значэнні слова складалі Ашмянская, Берасцейская, Браслаўская, Ваўкавыская, Віленская, Вількамірская, Гарадзенская, Капыльская, Клецкая, Кобрынская, Лідская, Менская, Новагародская, Нясвіжская, Пінская, Рэчыцкая, Слонімская, Слуцкая, Трокская, Тураўская землі. Яны ў той час мелі агульную назву — Літва. Літвой у шырокім сэнсе слова называліся і землі «да таго панства прыслухоўваючыя», якія ўваходзілі ў склад ВКЛ з захаваннем поўных аўтаномных правоў. Гэта Падляшша (з гарадамі Беласток, Бельск, Дарагічын Надбужскі, Мельнік), Валынь, Падолія, Кіеўшчына, Чарнігаўшчына, Браншчына, Жмудзь (Жамойць), Смаленшчына, Віцебшчына, По́лаччына, рускія княствы ў вярхоўях р. Акі і Дона (Навасільскае, Варатынскае, Адоеўскае, Мцэнскае і інш.). Пэўны час у некат. залежнасці ад ВКЛ знаходзіліся княствы Разанскае і Цвярское. Дамінуючае становішча ў дзяржаве займалі паны цэнтральных (беларускіх) зямель, бо ВКЛ было ўтворана на бел. тэрытарыяльнай, этнаграфічнай і культурнай аснове, а бел. мова з'яўлялася дзяржаўнай. Тут была сканцэнтравана большасць велікакняжацкіх і дзярж. маёнткаў, а таксама асн. маёнткаў буйных феадалаў. Адсюль набіралася асн. частка арміі, збіраліся асн. даходы ў дзярж. казну. Буйныя феадалы бел. зямель Алелькавічы, Друцкія, Глябовічы, Гальшанскія, Кішкі, Радзівілы, Сапегі і інш. займалі пануючае становішча ў дзярж. апараце. Землі «прыслухоўваючыя» не зліліся з асн. дзярж. ядром, захоўвалі сваю дзярж.-прававую адасобленасць і выступалі як аўтаномныя суб'екты дзярж.-прававых адносін. Прыкладам такой адасобленасці быў *дагавор 1338* паміж ВКЛ і Лівонскім ордэнам. Аўтаномныя правы зямель «прыслухоўваючых» замацоўваліся ў спец. граматах (прывілеях). Складанасць дзярж. будовы ВКЛ выявілася ў назве дзяржавы і тытуле вял. князя. У 13 і пач. 14 ст. дзяржава называлася толькі Літвой. Так, у грамаце вял. князя Міндоўга 1254 ён названы «кароль Літвы». Пасля далучэння да ВКЛ Кіеўскай і інш. укр. земляў вял. князь называўся «кароль літоўцаў і многіх рускіх», бо ў той час Руссю называлі Украіну, а Літвой — цяперашнюю Беларусь. Пасля далучэння да ВКЛ часткі Латвіі Гедзімін стаў называцца «кароль літоўцаў і рускіх, правіцель і князь Земгаліі». Пасля далучэння Жмудскай зямлі да ВКЛ у сярэдзіне 15 ст. вял. князь тытулуецца «великий князь... всее Литовское земли и Жомойтское и многих Руских земель». Гэты тытул

Да арт. **Вялікае княства Літоўскае.** Ружанская Петрапаўлаўская царква 17—18 ст. Інтэр'ер.

захаваўся і пры Жыгімонце Казіміравічу У Статуце ВКЛ 1529 было запісана «Права писаныя даны панству Великому князьству Литовскому, Рускому, Жомойтскому и иныя через наяснейшого пана Жикгимонта, з Божее милости короля полского, великого князя литовского, руского, пруского, жомойтского, мазовецкого и иных». Пасля Люблінскай уніі 1569 і далучэння Украіны да Польшчы краіна называлася толькі Вялікім княствам Літоўскім, хоць сам вял. князь працягваў тытулавацца вял. князем літоўскім, рускім, прускім, жамойцкім, мазавецкім, а пасля далучэння ў 1561 да ВКЛ Лівоніі і інфлянцкім. У афіцыйных дакументах для абазначэння дзяржавы выкарыстоўваліся назвы «Вялікае княства Літоўскае», «гаспадарства», «панства», «Рэч Паспалітая»; апошняя ўжывалася як для абазначэння толькі Княства, так і для сумеснай канфедэратыўнай дзяржавы Польшчы і ВКЛ, якая ўтварылася пасля Люблінскай уніі 1569.

Адм.-тэр. падзел дзяржавы ў 13—14 ст. заставаўся ў асноўным у старых межах, якія былі паміж асобнымі княствамі да ўтварэння ВКЛ. У Смаленскай грамаце 1505 напісана: «А што Швитригайло отвернул был волости от Смоленска, тые волости зася его милость привернул к Смоленску и што великий князь Витовт обернул был ко Мстиславлю Смоленское волости Молоховскии люди, и тые люди его милость опять привернул к Молохве, по старому». У сярэдзіне 14 ст. цэнтр дзяржавы падзелены на 2 ваенна-адм. акругі, якія затым атрымалі назву Віленскага і Трокскага ваяводстваў. Трокскае ваяводства павінна было адбіваць напады Польшчы і крыжаносцаў, а Віленскае — татар. У час кіравання Вітаўта і пазней большасць мясц. княстваў былі пераўтвораны ў ваяводствы або ў паветы. Пасля Люблінскай уніі тэр. ВКЛ падзялялася на Віленскае, Трокскае, Полацкае, Навагародскае, Віцебскае, Берасцейскае, Менскае і Мсціслаўскае ваяводствы; на правах павета была Жамойцкая зямля (пра кожнае ваяводства гл. асобны артыкул).

Паліт. лад ВКЛ у сваім гіст. развіцці істотна не змяняўся З самага пачатку ВКЛ складвалася як абмежаваная феад. манархія, на чале якой стаяў *вялікі князь* — гаспадар. Ён валодаў шырокімі паўнамоцтвамі камандаваў узброенымі сіламі, выдаваў заканадаўчыя акты, судзіў, кіраваў знешняй палітыкай, фінансава-гасп дзейнасцю. У 13—14 ст. усе важныя дзярж. пытанні ен вымушаны быў вырашаць разам з васальнымі князямі і найб. уплывовымі панамі, якія ажыццяўлялі выканаўча-распарадчую і судовую дзейнасць на месцах. У 15—16 ст у абмежаванні ўлады вял. князя ўдзельнічалі *сойм* і *рада*, што было замацавана ў граматах 1447, 1492, 1506 і ў Статутах ВКЛ 1529, 1566 і 1588.

Статут **Вялікага княства Літоўскага**. 1529
Старонка Слуцкага спіса

Сойм як саслоўна-прадстаўнічы орган вырас з мясц *веча*. Умацаванне эканам. сувязей унутры дзяржавы выклікала неабходнасць і больш шырокага ўдзелу феадалаў у вырашэнні агульнадзярж. спраў і выканання прынятых пастаноў Спачатку ў соймах удзельнічалі ўсе жадаючыя шляхціцы, але з прычыны таго, што з асобных паветаў ніхто не з'яўляўся, у 1512 быў уведзены абавязак выбіраць і пасылаць на сойм ад кожнага павета па 2 дэпутаты. На соймы таксама запрашаліся асабіста вярхі каталіцкага і праваслаўнага духавенства, службовыя асобы цэнтр. і некаторых мясц. органаў дзярж. кіравания, знатныя князі і паны. Соймы збіраліся па меры патрэбы ў розных гарадах і мястэчках. Да спец. кампетэнцыі сойма адносіліся: выбары вял. князя, абвяшчэнне вайны, заключэнне міру, вызначэнне падаткаў са шляхты на ваен. патрэбы, разгляд крымінальных спраў па абвінавачванні паноў у дзярж. здрадзе і інш. У сістэме дзяржаўных органаў выключнае значэнне належала радзе. У яе ўваходзілі *біскупы, ваяводы, кашталяны, маршалкі* (земскі і дворны), *канцлер, гетман* земскі, *падскарбі* земскі, *старосты* гарадзенскі, жмудскі і луцкі, некат. прыдворныя чыны, а таксама некат. князі і паны па асабістых запрашэннях. Рада была выканаўчым, заканадаўчым, судовым і кантралюючым органам. На ей вырашаліся пытанні дзярж. кіравання, міжнародных зносін, прызначэння на дзярж. пасады, рыхтаваліся найважнейшыя заканадаўчыя акты, разглядаліся некаторыя судовыя справы. Мясц. органы ўлады валодалі шырокімі паўнамоцтвамі ў вырашэнні ўсіх мясц. спраў. У сваей дзейнасці яны кіраваліся агульнадзярж. нарматыўнымі актамі, мясц. *звычаевым правам* і актамі мясц адміністрацыі. Шырокія правы мясц. органаў улады гарантаваліся граматамі абласнымі, *граматамі валасными* і граматамі гарадскімі. Асобнае кіраванне было ўсталявана ў прыватных уладаннях буйных паноў. Гал асобай у сістэме мясц. органаў быў ваявода, які ўзначальваў адм., гасп., ваен. органы і ў значнай ступені выконваў судовыя функцыі. Ён прызначаўся вял. князем і радай пажыццева з буйных паноў, ураджэнцаў ВКЛ. Ваявода павінен быў праводзіць у жыцце распараджэнні і пастановы цэнтр. органаў і адначасова клапаціцца аб інтарэсах насельніцтва. У сваёй дзейнасці ен апіраўся на намеснікаў і памагатых, бліжэйшымі з якіх былі кашталян, што камандаваў войскамі гал. замка ваяводства, а пры адсутнасці ваяводы — і ўсімі збройнымі сіламі. Ён жа разам з ваяводам прадстаўляў інтарэсы ваяводства ў радзе. Намеснік, або *падваявода*, выконваў адм. і судовыя абавязкі. *Ключнік, цівун* загадвалі зборам даніны і чыншу, вялі гасп. ўлік дзярж. маемасці ў ваяводстве. *Гараднічы* — камендант замка — павінен быў клапаціцца пра належнае ўтрыманне і рамонт замка, а пры адсутнасці кашталяна ўзначальваў замкавы гарнізон. У ваяводстве былі і іншыя службовыя асобы. Павятовую адміністрацыю ўзначальваў староста, які прызначаўся вял. князем і радай з буйных паноў. Яго паўнамоцтвы былі прыкладна такія ж, як і ваяводы, толькі на тэр. свайго павета Староста, як і ваявода, сачыў за падтрыманнем парадку на падведамнай тэрыторыі, ажыццяўляў нагляд за гасп. станам дзярж. маенткаў (двароў), клапаціўся пра ўтрыманне ў належным стане замкаў, мастоў і дарог. У выпадку ваеннай небяспекі ен збіраў апалчэнне, разглядаў судовыя справы. Бліжэйшымі яго памочнікамі былі *падстароста*, які выконваў адм. і судовыя абавязкі, маршалак павятовы — старшынстваваў на павятовых сойміках; *харунжы* — веў улік ваеннаабавязаных людзей у павеце і збіраў апалчэнне. Захоўваліся і інш старадаўнія чыны і пасады ключніка, *канюшага*, гараднічага, ляснічага, цівуна. Саслоўна-прадстаўнічымі органамі ў ваяводстве і павеце былі ваяводскія і павятовыя соймікі, на якіх абмяркоўваліся мясцовыя і агульнадзярж. справы, выбіраліся дэпутаты на сойм і кандыдаты на судовыя пасады, выпрацоўваліся інструкцыі дэпутатам на вальны (усеагульны) сойм, а таксама хадайніцтвы і просьбы да вял. князя і ўрада, заслухоўваліся справаздачы і інфармацыя аб пастановах і законах, прынятых на агульных соймах, вызначаліся падаткі на патрэбы павета Ніжэйшым звяном у сістэме дзярж. кіравання былі *дзяржаўцы*. Пад іх наглядам знаходзіліся дзярж. маенткі (двары і замкі), яны выконвалі функцыі кіравання ўсім насельніцтвам пэўнай воласці. У тых мясцовасцях, дзе былі вольныя сяляне

і не было дзярж. двароў і замкаў, сяляне выбіралі сельскіх або валасных старцаў, якія наглядалі за выкананнем насельніцтвам дзярж. павіннасцей, збіралі даніну і падаткі, адвозілі іх у дзярж. скарб, удзельнічалі ў разглядзе спраў *копнага суда*. Дзярж. кіраванне ў гарадах ВКЛ спалучалася з гарадскім самакіраваннем на аснове *магдэбургскага права*. На чале гар. улады стаяў *войт*, якога прызначаў урад з феадалаў або гараджан. У некаторых гарадах мяшчане выбіралі 2 кандыдатаў на пасаду войта, а ўрад зацвярджаў аднаго з іх. Дарадчым органам пры войце была гар рада, якая складалася не менш чым з 6 радцаў у мястэчках і да 20 радцаў у вял. гарадах Судовыя справы разглядаліся войтам з удзелам *лаўнікаў* (6—12 чал.), якія выбіраліся мяшчанамі. Войт сумесна з радаю выбіралі 2 або 4 *бурмістраў*, якія наглядалі за парадкам у горадзе і вырашалі ўсе бягучыя справы. У вырашэнні агульнагар. спраў істотнае значэнне мелі сходы жыхароў горада — гар соймы і копы. На іх заслухоўваліся паведамленні і справаздачы гар. службовых асоб, выпрацоўваліся скаргі і просьбы ўраду і інш

Судовы лад ВКЛ уключаў 2 сістэмы судоў — агульныя і саслоўныя. Агульныя суды (гаспадарскі, або велікакняжацкі, і гродскі, або замкавы), у якіх разглядаліся правы розных груп насельніцтва, былі заснаваны на старадаўнім звычаевым праве і на законе. Яны былі цесна звязаны з органамі дзярж. кіравання Найб. тыповымі саслоўнымі судамі былі галоўны суд, або галоўны трыбунал (гл. *Трыбунал Вялікага княства Літоўскага*), земскі і падкаморскі — для шляхты, войтаўска-лаўніцкі — для мяшчан, копны — для сялян і царкоўны — для духавенства. Самым высокім судовым органам для ўсяго насельніцтва быў гаспадарскі суд (гл. *Велікакняжацкі суд*), які складаўся з гасудара і паноў-рады. Падсуднасць спраў гаспадарскаму суду да сярэдзіны 16 ст. была даволі шырокай, бо кожны вольны чалавек меў права звярнуцца да гасудара са сваей скаргай. Пазней быў устаноўлены парадак, што спачатку неабходна разглядаць справу ў мясцовым судзе па першай інстанцыі, а потым звяртацца ў гаспадарскі суд. Пасля ўтварэння гал трыбунала скарацілася колькасць спраў, падсудных гаспадарскаму суду, па першай і другой інстанцыях Да кампетэнцыі гаспадарскага суда былі аднесены толькі некат. справы, што закраналі інтарэсы дзяржавы або самога гасудара. Гал. суд (трыбунал) быў судом канчатковай інстанцыі, ён складаўся з суддзяў (па 2 суддзі ад кожнага павета або ваяводства), якія выбіраліся шляхтай на павятовых сойміках. На яго ўскладалася задача замяніць гаспадарскі суд па разгляду апеляцыйных спраў і тым самым паскорыць іх разгляд. Асобную катэгорыю спраў у гал. судзе складалі скаргі на незаконныя дзеянні і злоўжыванні мясц. службовых асоб і суддзяў. Гал. суд выконваў некат. натарыяльныя дзеянні. Найб. старажытным

Да арт **Вялікае княства Літоўскае.** Абраз «Узнясенне Марыі» 17 ст Музей старажытнабеларускай культуры АН Беларусі

агульным судом быў гродскі, або *замкавы суд*, у якім гал. роля належала службовым асобам мясц. адміністрацыі — ваяводу, старосту, дзяржаўцу і іх намеснікам. Гэты суд дзейнічаў у вышэйшым і ніжэйшым саставах. Вышэйшы гродскі суд, які разглядаў справы па першай інстанцыі і апеляцыйныя скаргі на пастановы ніжэйшага суда, складаўся з ваяводы або старосты, ці дзяржаўцы і прадстаўнікоў мясц. насельніцтва. Ніжэйшы гродскі суд, якому была падсудна большасць крымінальных спраў, складаўся з 3 чалавек· намесніка ваяводы або інш. службовай асобы, суддзі і пісара. Судамі першай інстанцыі для шляхты былі *земскі суд* і *падкаморскі суд*. Земскі складаўся з суддзі, падсудка і пісара, якія прызначаліся ўрадам з кандыдатаў, абраных шляхтаю на павятовым сойміку. Справы разглядаліся пасесіўна, сесіі збіраліся 3 разы на год, працягваліся 3—4 тыдні. Земскаму суду была падсудная большасць цывільных і крымінальных спраў шляхты, апрача таго, ён сведчыў дагаворы куплі-продажу маенткаў, пазыкі і закладу, завяраў завяшчанні і выконваў іншыя натарыяльныя дзеянні У падкаморскім судзе справы па спрэчках аб межах паміж землеўладальнікамі разглядаў падкаморы і пісар з удзелам зацікаўленых бакоў. Падкаморага прызначаў гасудар з ліку 4 кандыдатаў, выбраных шляхтаю на павятовых сойміках. Вымяраць і ўстанаўліваць межы землеўладанняў дапамагаў каморнік, які прызначаўся падкаморым са згоды феадалаў. Апеляцыйныя скаргі на пастановы падкаморскага суда падаваліся ў гал. суд. У гарадах дзейнічалі войтаўска-лаўніцкія і бурмістраўскія суды, якія разглядалі крымінальныя і цывільныя справы мяшчан (гл. *Войтаўскі суд*). *Войтаўска-лаўніцкі суд* у складзе войта або яго намесніка — лентвойта і лаўнікаў разглядаў найб. значныя справы, а нязначныя правапарушэнні былі ў распараджэнні бурмістраўскага суда. Справы, якія закраналі інтарэсы горада або многіх мяшчан, маглі разглядацца ўсім магістратам У 16 ст. ў ВКЛ пачаўся працэс утварэння элементаў феад. прававой дзяржавы і пераўтварэння суда з органа абароны толькі інтарэсаў дзяржавы і пануючых вярхоў у орган абароны таксама правоў шляхты і часткова мяшчан Адначасова з новымі палажэннямі судовага ладу ў заканадаўстве былі замацаваны і тыпова феад. прававыя нормы, якія захоўвалі суд феадала над залежнымі ад яго людзьмі. Працягваў дзейнічаць сялянскі копны суд, суддзямі якога былі простыя людзі — копныя мужы і копныя старцы, колькасцю 10—20 чал. (іх магло быць і значна больш). У копных судах разглядаліся справы не толькі простых людзей, але і паноў і шляхты, асабліва калі тыя выступалі істцамі і былі зацікаўлены ў росшуку злачынцы і яго пакаранні. У копным судаводстве спалучалася дзейнасць следчага і судовага органаў Пастановы копных судоў, як правіла, абскарджанню не падлягалі і адразу выконваліся. Значныя нававўвядзенні, што адбыліся ў судовым ладзе ў 16 ст., паўплывалі і на змены ў працэсуальным праве ў бок сцвярджэння гуманістычных прынцыпаў публічнасці, фармальнай роўнасці бакоў, права на ўдзел адваката ў працэсе, зараджэння тэорыі свабоднай ацэнкі доказаў пры захаванні фармалізму працэсу, наданні працэсуальных правоў удзельнікам працэсу і інш. Забаранялася вымагаць прызнанне ў абвінавачанага шляхціца катаваннем, а простага чалавека мучыць дазвалялася толькі ў тым выпадку, калі былі іншыя доказы яго віны. Паводле Полацкага прывілея 1511 суду забаранялася верыць прызнанням, атрыманым пад мукай.

Прававая сістэма ВКЛ, якая адлюстроўвала глыбіню, разнастайнасць і супярэчлівасць сац.-паліт. і культ. жыцця 16 ст., сфарміравалася на аснове мясц. звычаевага права, прававых актаў дзярж і судовых органаў. Пачынаючы з 2-й пал 15 ст першараднае значэнне надавалася заканадаўчым актам. агульназемскім, абласным, гарадскім, валасным і інш граматам (прывілеям), Судзебніку і розным соймавым пастановам (уставам). Вышэйшай формай заканадаўства з'яўляліся Статуты Вялікага княства Літоўскага 1529, 1566, 1588. Яны былі першымі ў Еўропе зводамі законаў, выдадзенымі на аснове мясцовага права. Усе нормы Статутаў прасякнуты ідэяй усталявання прававой дзяржавы, абмежавання ўлады гасудара, падзелу ўлады на заканадаўчую, выканаўчую і судовую. Дзейнасць усіх дзярж. органаў і службовых асоб пад-

парадкоўвалася праву. Шматбаковае адлюстраванне ў праве ВКЛ сац. і саслоўнай структуры грамадства, грамадскіх праваадносін, распрацаванасць норм дзярж., адм., судова-працэсуальнага, цывільнага, крымінальнага і інш. галін права вылучылі яго на адно з першых месцаў у тагачаснай Еўропе. Яно зрабіла значны ўплыў на развіццё права Расіі, Польшчы, Украіны, Латвіі і Эстоніі. Статут ВКЛ 1588 дзейнічаў на тэр. Беларусі і Літвы без карэнных змен да 1840. *І. А. Юхо.*

**Сельская гаспадарка і становішча сялян.** Сац.-эканам. асновай феад. грамадства была сельская гаспадарка, а адносіны, што ўзнікалі ў сферы дачыненняў да асн. сродку вытворчасці — зямлі, былі галоўнымі фактарамі, якія вызначалі стан эканомікі ў дзяржаве. У ВКЛ асноўныя формы феад. землеўладання, адпаведныя катэгорыі феадалаў, асн. віды сялянскага землекарыстання і катэгорыі феад.-залежнага насельніцтва склаліся ў 13—14 ст. Вярхоўным уласнікам усёй зямлі ў ВКЛ лічыўся вял. князь (гаспадар). Яму належалі і т. зв. гаспадарскія землі (велікакняжацкі дамен), якія ў сярэдзіне 16 ст. складалі амаль палову тэр. краіны. Велікакняжацкі *дамен* фарміраваўся ў выніку далучэння да старых вотчын Гедзімінавічаў заваяваных і канфіскаваных зямель, а таксама зямель, атрыманых вял. князямі як спадчыны, *вымарачныя маёнткі* і інш. У 2-й пал. 16 ст. гэтыя землі набылі статус дзяржаўных. Адна іх частка (сталовыя *эканоміі* і *староствы*) заставалася ў падпарадкаванні гаспадарскага скарбу, даходы з якога ішлі на карысць вял. князя і ўтрыманне двара, астатнія аддаваліся ў часовае трыманне феадалам за выкананне пэўнай дзярж. службы (пасады) ці ў знак заслугі перад дзяржавай з выплатай скарбу чацвёртай часткі даходаў — т. зв. кварты. Да канца 16 ст. існавала практыка раздачы гаспадарскіх зямель феадалам не толькі ў часовае трыманне, але і ва ўласнасць у якасці велікакняжацкіх падараванняў за вайсковую і інш. службу. Значную, а з 16 ст. пераважную (каля 65 %) удзельную вагу ў структуры феад. землеўладання на Беларусі мела прыватнае землеўладанне — уласнасць свецкіх феадалаў *(шляхты)* — князёў, паноў і баяр. Большасць прыватных уладанняў знаходзілася ў зах. і цэнтр. рэгіёнах. Састаўной часткай феад.-аграрнай структуры была таксама ўласнасць царкоўных устаноў, якую ў асноўным стваралі маёнткі каталіцкай, праваслаўнай, уніяцкай і пратэстанцкай цэркваў. Буйным землеўласнікам з'яўлялася каталіцкая царква, якой належалі такія значныя ўладанні, як Стрэшынская, Сожыцкая, Брашэвіцкая, Ігуменская, Убарцкая валасці, інш. маёнткі.

З часу ўтварэння тэрыторыя ВКЛ у





Да арт. **Вялікае княства Літоўскае.** «Трыбунал **Вялікага княства Літоўскага».** Тытульны ліст. Вільня. 1586.

адносінах да цэнтр. улады характарызавалася падзелам на 2 часткі: цэнтр., або галоўную, куды ўваходзілі цэнтр. і зах. землі Беларусі, і землі мяжуючыя, або «прыслухоўваючыя» (з бел. земляў — гэта Падняпроўе і Падзвінне). Падзел паміж імі праходзіў прыблізна па лініі Орша—Барысаў—Менск—Слуцк—Пінск. Пераважная колькасць прыватных уладанняў знаходзілася ў цэнтр. і зах. частках Беларусі, дзе былі больш урадлівыя глебы і добра развітыя шляхі транспартных зносін. Усходнія землі Беларусі, напр. *Полацкая зямля* і *Віцебская зямля,* мелі своеасаблівы статус, з 15 ст. яны кіраваліся ў асноўным намеснікамі вял. князя, ваяводамі і старостамі. Тут была большая частка дзярж. уладанняў і гаспадарскіх земляў. Такое становішча ў многім паўплывала на далейшае эканам. развіццё гэтых рэгіёнаў, захоўваючы іх своеасаблівасць як па відах феад. землеўладання, так і па формах сялянскага землекарыстання. У канцы 15 — 1-й пал. 16 ст. адбываўся значны ўздым сельскай гаспадаркі на Беларусі. Рост попыту на збожжа на Захадзе стымуляваў вытворчасць сельгаспрадукцыі на продаж, што выклікала неабходнасць змен у арганізацыі аграрных адносін. Існаваўшыя ў многіх дзярж. уладаннях, некаторых прыватных і царкоўных маёнтках т. зв. *двары,* гал. прызначэннем якіх была вытворчасць прадукцыі для асабістых патрэб феадалаў і ўтрымання адміністрацыі, пачынаюць ператварацца ў *фальваркі,* арыентаваныя на вытворчасць таварнай прадукцыі. Яны ствараліся пераважна на тэрыторыі басейнаў сплаўных рэк Нёмана і Зах. Дзвіны, пазней пашырыліся і на інш. тэрыторыі Беларусі. Стварэнне фальваркаў прывяло да істотных змен у арганізацыі бел. вёскі, ва ўвядзенні новых адзінак падаткаабкладання і вымярэння зямлі, а ў павіннасным абкладанні сялянства — да пераходу ад *даніны* і *чыншу* да *паншчыны.* Аграрныя пераўтварэнні, мэтаю якіх былі больш поўны ўлік і больш рацыянальнае размеркаванне зямлі, уніфікацыя сялянскіх павіннасцей, распачатыя ў 1530—40-я гады, атрымалі назву *валочнай памеры.* У Падняпроўскіх і Падзвінскіх гаспадарскіх валасцях у якасці асноўнай адзінкі падаткаабкладання была *«служба»,* памерамі блізкая да *валокі.* Асноўнымі павіннасцямі сялян тут заставаліся чынш і даніна розных відаў. На З і ў цэнтры Беларусі асноўным відам сялянскага трымання і павіннаснага абкладання стала валока (21, 36 га), а пераважнай павіннасцю — паншчына. Адносіны сялянства да зямлі не былі аднолькавымі на працягу ўсёй феад. гісторыі Беларусі. Напачатку на Беларусі, як і ў інш. краінах, існавала ўласнасць сялян на зямлю. Пазбаўленне сялян гэтай уласнасці звязана з працэсам феад. запрыгоньвання сялянства. Пачатак заканадаўчаму афармленню і ўсталяванню *прыгоннага права* ў ВКЛ пакладзены *Прывілеем 1447,* а да сярэдзіны 16 ст. асноўная маса сялянства была паступова запрыгонена, пра што адназначна канстатавалася ва *«Уставе на валокі» 1557*: «мерыти всякий кгрунт купленый и заставленый, кгды ж кметь и вся его маетность наша ест». Права ўласнасці на зямлю ў якасці манаполіі класа феадалаў заканадаўча замацавана Статутамі ВКЛ 1529, 1566, 1588.

Пераважным тыпам паселішча на Беларусі была *вёска* (сяло, весь). Сяляне адной вёскі звычайна складалі суседскую сельскую *грамаду* (абшчыну). Абшчына асобнай вёскі ўваходзіла ў склад больш шырокай арганізацыі — *воласці.* Грамада валодала правам разбору некаторых крымінальных спраў у копным судзе, раскладкай і зборам даніны і падаткаў. У агульным карыстанні сельскай грамады знаходзіліся выганы, лугі, сенажаці, лясы і воды, але разам з працэсам запрыгоньвання сялян ішло паступовае пазбаўленне іх права карыстацца абшчыннымі ўгоддзямі. Сяляне належалі да ніжэйшага саслоўя («людзі простага стану») і зваліся звычайна «людзі», «падданыя», «мужыкі». Ад таго, на тэрыторыі якога землеўласніка яны пражывалі, адрозніваліся дзяржаўныя (гаспадарскія), прыватнаўласніцкія (панскія) і царкоўныя (манастырскія, касцельныя і г. д.) сяляне. У залежнасці ад характару павіннасцей і колькасці зямлі, якую яны апрацоўвалі, вядомы такія катэгорыі сялянства,

як *агароднікі, бабылі, даннікі, каморнікі, кутнікі*, гультаі, людзі лёзныя, суседзі, *халупнікі* і інш. Паводле ступені асабістай залежнасці ад феадалаў вылучаліся *чэлядзь нявольная* (сяляне, якія не мелі сваёй гаспадаркі, жылі ў дварах феадалаў і выконвалі розныя паслугі), *чэлядзь* (дваровая прыслуга феадала), *«пахожыя» людзі* (сяляне, якія мелі права пераходу з аднаго маёнтка ў другі пры выкананні пэўных умоў) і *«непахожыя» людзі* (сяляне, якія страцілі такое права), *слугі* (сяляне, якія выконвалі на карысць феадала розныя паслугі) і інш. Асноўны занятак сялянства — земляробства, дадатковыя — жывёлагадоўля, бортніцтва, рыбалоўства, паляванне.

Адной з найдаўнейшых адзінак падаткаабкладання на Беларусі быў *«дым»* — сялянская гаспадарка з зямлёй, пабудовамі, цяглавай і прадукцыйнай жывёлай і ўсім гаспадарскім рыштункам і начыннем. У ім звычайна жыла адна індывідуальная сям'я, радзей — некалькі сем'яў або адна родная вялікая сям'я. Зямельны надзел дымоў звычайна складаўся з ворнай зямлі і сенакосных угоддзяў, за карыстанне якімі члены сям'і абавязаны былі выконваць на карысць феадала розныя павіннасці — г. зн. службу. Пасля завяршэння аграрнай рэформы (сярэдзіна 16 — 1-я пал. 17 ст.) асн. аб'ектамі падаткаабкладання стала валока і служба, а дым пачаў атаясамлівацца з паняццем дома, двара.

2-я пал. 17 — 1-я пал. 18 ст. ў гісторыі Беларусі характарызуецца значным эканам. заняпадам, выкліканым шматлікімі войнамі і звязанымі з імі стыхійнымі бедствамі. Напр., за 17 гадоў (з 1650 па 1667) насельніцтва краю скарацілася на 53 %. Найбольшыя страты мелі дзярж. ўладанні, у некаторых мясцовасцях пуставала большая палавіна былых ворных зямель. Выкарыстанне апусцелых запушчаных надзелаў магло забяспечыць сялянам толькі існаванне сям'і і выплату рэнты феадалу. Памеры гэтых надзелаў былі невялікія, таму што недахоп рабочых рук і цяглавай жывёлы, занядбанасць глебы і даволі высокія памеры чыншу не дазвалялі сялянам пашыраць сваю гаспадарку. Каб палепшыць эканам. сітуацыю, дзяржава і прыватныя ўласнікі пачалі выкарыстоўваць самыя разнастайныя формы гаспадарання. З мэтаю зацікавіць сялян браць дадатковыя зямельныя надзелы ўводзіліся розныя льготы; валокі, што пуставалі, здаваліся сялянам на ўмовах аблегчанага чыншу, памеры якога былі меншымі, чым з асноўнага надзелу. Гэта спрыяла пашырэнню пазанадзельнага землекарыстання, якое называлася па-рознаму: прыёмныя землі, бакавыя, наезныя, лазовыя і да т. п. Вядомы выпадкі, калі землеўласнікі нават прымушалі сялян браць дадатковыя надзелы. Але аднаўленчы працэс у розных відах феад. уладанняў ішоў па-рознаму. У буйных дзярж., прыватных і царкоўных маёнтках практыкавалася раздача сялянам зямлі на ўмовах грашовай рэнты-чыншу. Большасць уцалелых фальваркаў ліквідавалася з-за недахопу рабочых рук, цяглавай жывёлы для апрацоўкі вял. палёў. Былыя *цяглыя сяляне* пераводзіліся на чынш. Фальваркі захоўваліся толькі паблізу сплаўных шляхоў і былі арыентаваны гал. чынам на вываз збожжа за мяжу. У невялікіх жа маёнтках гаспадарка вялася пад кіраўніцтвам самога ўладальніка або трымальніка, які сам і вызначаў, па якім шляху пойдзе ўзнаўленне: праз развіццё фальварка ці праз ачыншаванне. Агульным правілам было тое, што пасля гасп. аднаўлення землеўласнікі пачыналі наступ на сялянства — павышалі нормы павіннасцей, абмяжоўвалі правы сялянскай грамады, дзейнасць якой у гады заняпаду нават стымулявалі, і г. д. У адказ на ўзмацненне эксплуатацыі сяляне шукалі розныя формы барацьбы, асноўнымі з якіх былі ўцёкі, адмаўленне ад выканання павіннасцей, а то і ўзброеныя выступленні. Сяляне выкарыстоўвалі і іншыя формы непадпарадкавання — адмаўляліся ад прыняцця цяглых або дадатковых надзелаў, утойвалі самавольна распрацаваныя надзелы ад уліку іх феадалам і да т. п. У цэлым паступовае ўзнаўленне і развіццё сялянскай гаспадаркі, якое было ў многім абумоўлена льготамі для сялянскага землекарыстання, зрабілі дабратворны ўплыў на гасп. стан феад. маёнткаў, эканоміку ўсёй краіны. У сярэдзіне 18 ст. ў асобных маёнтках узровень эканам. развіцця нават перавысіў даваенны. Сярэдні памер зямельнага надзелу сялян, што значна скараціўся ў час войнаў і разбурэнняў, дасягнуў да канца аднаўленчага перыяду ўзроўню 1-й пал. 17 ст. і склаў каля палавіны валокі. У буйных дзярж., прыватных і царкоўных уладаннях пераважалі чыншавыя сяляне, у дробных маёнтках — цяглыя. Адначасова ва ўсіх уладаннях паявілчылася колькасць змешаных надзелаў з цяглай і чыншавай або прыёмнай доляй, што сведчыла аб імкненні землеўласнікаў выкарыстоўваць розныя формы павіннаснага абкладання сялян ад чыншу да паншчыны.

Да арт. **Вялікае княства Літоўскае.** Фрагмент шклянога кубка. 1740—50. Налібоцкая шкляная мануфактура.

Да арт. **Вялікае княства Літоўскае.** Камайскі касцёл (Пастаўскі р-н). 17—18 ст.

У 2-й пал. 18 ст. пачаўся новы перыяд у гісторыі Беларусі — разлажэнне феадалізму і зараджэнне капіталістычных адносін. Узнаўленне панскай і сялянскай гаспадаркі ў асноўным завяршылася да 1750-х гадоў. Хуткі рост насельніцтва (з 1,5 млн. чал. у 1717 да 3,6 млн. чал. у 1790) становуча адбіўся на развіцці таварна-грашовых адносін і ўнутранага рынку. Сельскагаспадарчая вытворчасць усё больш набывала таварны характар, ішла спецыялізацыя асобных раёнаў, развіваліся шляхі транспартных зносін. Гасп. палітыка дзяржавы была накіравана на пошук шляхоў павелічэння даходнасці дзярж. уладанняў. Імкнучыся павялічыць рэнтааддачу сялянства, скарб зноў пайшоў па шляху пашырэння фальварковай гаспадаркі. Ініцыятарам правядзення новых аграрных пераўтварэнняў стаў надворны падскарбі ВКЛ А. Тызенгаўз, які прапанаваў у сталовых эканоміях (гл. *Брэсцкая эканомія, Гродзенская эканомія, Кобрынская эканомія*) забраць у сялян зямлю, якая ў 2-й пал. 16—17 ст. была панскім ворывам, і адрадзіць тут фальваркі. З гэтай мэтай уводзіліся 2 катэгорыі сялянства — цяглыя сяляне і *зямяне*. Зямля падзялялася на сядзібную (аселую) і прынятую. Кожная сялянская гаспадарка павінна была ўзяць $^1/_4$ валокі сядзібнай (цяглай) зямлі (памеры прыёмнай зямлі не абмяжоўваліся) і за яе карыстанне цяглыя сяляне былі абавязаны адпрацаваць 2-дзённую паншчыну, а зямяне (па сутнасці новая назва чыншавых, ці асадных, ся-

лян) — плацілі грашовую рэнту. Уводзіліся і дадатковыя павіннасці: мядовая і грыбная даніны, *шарваркі*, праца на дваровых агародах і інш. У эканоміях прадугледжвалася будаўніцтва мануфактур, заснаваных на працы залежнага сялянства. Усе гэтыя мерапрыемствы атрымалі назву рэформы Тызенгаўза. Рэзкі паварот ад традыцыйнай палітыкі збору чыншу да аднаўлення фальваркова-паншчыннай сістэмы ў каралеўскіх сталовых эканоміях і адпаведнай рэарганізацыі сялянскага землеўладання і землекарыстання разам з увядзеннем новых відаў павіннасцей дазволіў скарбу павялічыць даходы ад сваіх уладанняў. У староствах і дзяржавах, дзе гэта рэформа не была праведзена, працягвалася практыка выкарыстання тых форм гаспадарання, якія былі больш выгаднымі ў дадзенай мясцовасці, найчасцей паншчына ў спалучэнні з грашовай і натуральнай рэнтай. Падобным чынам ішло развіццё ў прыватных і царкоўных уладаннях. Фальваркова-паншчынная сістэма была больш пашыранай на З і ў цэнтры Беларусі, на У пераважаў чынш. Але ў маёнтках дробнай і сярэдняй шляхты і некаторых царкоўных уладаннях пераважала менавіта фальваркова-паншчынная сістэма, што доказвае яе ўсеагульнасць для феад. уладанняў Беларусі 2-й пал. 18 ст.

*В. Ф. Голубеў.*

**Гарады.** У выніку росту абмену прадукцыяй сельскай гаспадаркі і рамеснымі вырабамі, спецыялізацыі рамяства і расшырэння вытворчасці развіваліся гарады, павялічвалася іх колькасць. У 13—14 ст. на тэр. Беларусі было каля 40 гарадоў. У 15 ст. рысы гандлёвых і рамесніцкіх цэнтраў набылі былыя крэпасці, феад. замкі, некаторыя гаспадарскія двары. У 16 ст. на Беларусі ўзнікла больш за 200 своеасаблівых паселенняў гар. тыпу — *мястэчак.* У сярэдзіне 17 ст. ў ВКЛ было 757 гарадоў і мястэчак, у т. л. на Беларусі 42 гарады і 425 мястэчак. Буйнымі лічыліся гарады, якія мелі 10 і больш тыс. ж., сярэднімі — больш за 5 тыс., малымі — 2—5 тыс. ж. У мястэчках было ад некалькіх сотняў да 1,5 тыс. ж. Гарады і буйныя мястэчкі выконвалі функцыі: эканамічную — былі цэнтрамі рамяства і гандлю, пунктамі складавання тавараў, рачнога суднабудавання, месцамі правядзення кірмашоў, прыпынкаў купцоў, рачнымі портамі; адміністрацыйную — з'яўляліся цэнтрамі ваяводстваў, паветаў, валасцей, феад. уладанняў, царкоўных прыходаў; вайсковую — служылі крэпасцямі, месцамі збору і сканцэнтраванняў войска. Паступова яны станавіліся цэнтрамі ўнутр. лакальных рынкаў. У 15—16 ст. гарады ўсё больш уключаліся ў сферу еўрап. гандлю (з Польшчай, Чэхіяй, Германіяй), падтрымлівалі сувязі з гарадамі Рускай дзяржавы і Прыбалтыкі. Купцы ВКЛ вывозілі за мяжу збожжа, лес, смалу,

Да арт. **Вялікае княства Літоўскае.** Фрагмент пушкі (цыборыум). Канец 16 ст.—1615. Полацк.

скуры, воск, пяньку, сала, вырабы мясцовых рамеснікаў і інш., удзельнічалі ў транзітным гандлі футрам, сукном, ювелірнымі вырабамі, прывозілі замежныя сукны, жалеза, медзь, волава, соль, металічныя вырабы і інш. Па меры ператварэння гарадоў у гандлёва-рамесніцкія цэнтры ўзмацнялася іх імкненне выйсці з-пад юрысдыкцыі вялікакняжацкай адміністрацыі, стварыць сваю сістэму кіравання і судова-адм. уладу. З канца 14 ст. ў гарадах, а пазней і ў асобных мястэчках ва ўмовах вострай грамадска-паліт. барацьбы мяшчане дамагаліся гар. самакіравання паводле *магдэбургскага права.* Гар. насельніцтва расло гал. чынам за кошт сялян, якія шукалі тут паратунку ад прыгонніцтва. Гараджане выконвалі розныя павіннасці на карысць дзяржавы: будавалі і рамантавалі замкі, двары, дарогі, масты і інш. Сацыяльны склад, маёмаснае і прававое становішча насельніцтва гарадоў былі неаднолькавыя. Гар. вярхі складаліся з феадалаў-баяр і вышэйшага духавенства. Да іх набліжаліся багатыя купцы і багатыя рамеснікі. Найбольшую групу гараджан складалі рамеснікі, арганізаваныя ў цэхі, гандляры, дробныя і сярэднія купцы, земляробы. Свае арганізацыі мела купецтва (Вільня, Магілёў, Слуцк). У гарадах жылі феад.-залежныя людзі, перасяленыя сюды іх уладальнікамі. Гэтым быў зроблены пачатак прыватнаўласніцкіх феад. юрыдык. У сувязі з ростам юрыдык і павелічэннем колькасці яўр. насельніцтва ў гарадах і мястэчках стала больш рамеснікаў, якія не ўваходзілі ў цэхі, т. зв. *партачоў.* Рамеснікі прыватнаўласніцкіх гарадоў частку сваёй прадукцыі здавалі ў гаспадарку феадала. Узмацненне ўлады гар. багацеяў, падатковы цяжар, самавольствы гар. рады паглыбілі класавыя і ўнутраныя супярэчнасці, што нярaз прыводзіла да паўстанняў беднаты. У час Паўн. вайны 1700—21 большасць гарадоў і мястэчак разбураны, прыйшлі ў заняпад. Гэта выкарысталі феадалы для захопу гар. зямель і ператварэння іх у свае юрыдыкі. Але пры такіх умовах гарады і мястэчкі, хоць марудна, аднаўляліся. У 2-й пал. 18 ст. эканоміка гарадоў і мястэчак стабілізавалася, а ў канцы стагоддзя большасць з іх перадолела заняпад. Павелічэнне ролі рынку паскарала працэс дыферэнцыяцыі рамеснікаў. Расла залежнасць рамеснікаў ад скупшчыкаў, узніклі буйныя майстэрні з наемнымі рабочымі. Паявіліся прыкметы распаду цэхавай арганізацыі. У гандлёвых аперацыях гар. купцоў павялічвалася доля экспартнага гандлю с.-г. таварамі, вырабамі лясных промыслаў, продажу імпартных вырабаў на мясцовым рынку (гл. таксама *Горад*).

*З. Ю. Капыскі.*

**Культура і асвета.** З прычыны параўнальна высокага ўзроўню эканам. развіцця бел. земляў важную ролю ў ВКЛ адыгрывала і бел. культура. На бел. мове ў ВКЛ вялося справаводства і судаводства, пісаліся статуты, граматы, соймавыя пастановы, ствараліся летапісы, хронікі, мастацкія творы. У выніку развіцця феад. грамадства ў межах этнічнай тэр. Беларусі ў 13—16 ст. утварылася *беларуская народнасць.*

Школьная адукацыя ў ВКЛ захоўвала свой канфесіянальны характар. У 2-й пал. 16 ст. існавалі праваслаўныя школы з пашыранай праграмай адукацыі, дзе вывучаліся царкоўнаслав. граматыка, матэматыка, філасофія, тэалогія. Значны ўклад у развіццё, а часткова і ў секулярызацыю школьнай асветы зрабілі бел. *брацтвы праваслаўныя* — віленскае Свята-духаўскае, магілёўскае, слуцкае, брэсцкае, пінскае, полацкае і інш. Многія выхаванцы бел. і укр. *брацкіх школ* ведалі класічныя і замежныя мовы, тэалогію, гісторыю, рыторыку, займаліся выдавецкай, перакладчыцкай дзейнасцю, распрацоўвалі ўставы, статуты, праекты школьных пераўтварэнняў. Брацкія школы вызначаліся дэмакр. тэндэнцыямі (разнастайны сацыяльны склад вучняў, нязначная аплата або бясплатнасць навучання), падтрымлівалі «рускую» (беларускую) і царк.-слав. мовы, рэфармавалі традыцыйныя метады навучання, па-свойму ўспрымалі і асэнсоўвалі дасягненні зах. педагогікі.

Каталіцкая сістэма школьнай і калегіумнай адукацыі таксама адпавядала тагачасным тэалагічным, царк.-рэліг. і грамадскім патрэбам. Паводле пастаноў віленскіх сінодаў каталіцкія школы павінны былі стварацца ў кожным прыходзе (плябаніі). Пасля ўтварэння Рэчы Паспалітай і перамогі *контррэфармацыі* на тэр. ВКЛ пачалі пашырацца сярэднія каталіцкія навуч. установы еўрапейскага ўзроўню — *калегіумы,* якія існавалі ў Брэсце, Вільні, Гродне, Нясвіжы, Полацку, Оршы і інш. Большасць з іх знаходзілася пад апекай езуіцкіх, піярскіх і інш. каталіцкіх ордэнаў. Першай навуч. установай падобнага тыпу

быў Віленскі езуіцкі калегіум, засн. ў 1570. Асноўным кантынгентам навучэнцаў была шляхецкая, часткова мяшчанская моладзь. Шырокай праграмай адукацыі вылучаліся пратэстанцкія школы ў Вільні, Слуцку, Іўі, якія ўзначальвалі дэмакр. дзеячы рэфармацыйнага руху. Менавіта ў рэфармацыйных колах у 1560-я гады ўзнікла ідэя стварэння першага ў ВКЛ універсітэта. Аднак пад уплывам каталіцкага духавенства такая навуч. ўстанова была падначалена езуітам (гл. *Віленскі універсітэт*). Побач з адносна рэгламентаванымі царк.-рэліг. формамі школьнай адукацыі на Беларусі заўсёды існавалі прыватныя формы адукацыі. Многія бел. і літ. феадалы, частка заможнага мяшчанства, духавенства папаўнялі сваю адукацыю ў розных заходнееўрапейскіх ун-тах (пераважна ў Кракаўскай і Кёнігсбергскай акадэміях, у Германіі, Чэхіі і Італіі). Пад уплывам еўрапейскага *Асветніцтва* ў ВКЛ з сярэдзіны 18 ст. пачаліся рэформы ў школьнай калегіумнай адукацыі, у 1773—75 распачала сваю дзейнасць *Адукацыйная камісія*. На Беларусі павялічылася цікавасць да «натуральных» навук, прыкладных доследаў, пашыраюцца творы выдатных еўрапейскіх вучоных, гарады і магнацкія маёнткі ператвараюцца ў значныя цэнтры свецкага культ. жыцця (гл. таксама *Асвета*).

Развіццё феад. адносін, рост гарадоў, іншыя грамадска-паліт., царк.-рэліг. і духоўныя патрэбы абумовілі пашырэнне пісьменнасці і кніжнай культуры ў розным сац.-этнічным і прафесійным асяроддзі. Гэтаму спрыяла выкарыстанне з 14—15 ст. паперы як асн. сродку ўсіх відаў пісьменнасці, змяншэнне кошту рукапісных і друкаваных кніг (у параўнанні з пергаментнымі), усталяванне канцылярскай службы, павелічэнне колькасці і юрыд. значэння афіцыйных дакументаў (прывілеяў, лістоў, тастаментаў, інвентароў і інш.). Сярод пісараў велікакняжацкай канцылярыі, якая рабіла значны ўплыў на выпрацоўку і нармалізацыю літаратурнай і афіцыйнай бел. мовы і заканадаўства, пераважалі беларусы. Простыя людзі часцей карысталіся паслугамі шматлікіх мясц. дзякоў, пісцоў, судовых асоб. У 13—16 ст. цэнтры кніжнай пісьменнасці, скрыпторыі (рукапісныя майстэрні) дзейнічалі пры буйных манастырах і цэрквах у Навагародку, Полацку, Смаленску, Вільні, Віцебску, Лаўрышаве, Супраслі і інш. Асобныя пісцы працавалі пры дварах буйных феадалаў, выконвалі іх заказы на высокім прафесійным і маст. узроўні. Развівалася і летапісанне.

Самай старажытнай на Беларусі была *бібліятэка Полацкага Сафійскага сабора*. Пазней узніклі *бібліятэка Супрасльскага Благавешчанскага манастыра*, бібліятэкі Святатраецкага манастыра ў Вільні, Траецкага манастыра ў Слуцку, Ляшчынскага манастыра ў Пінску і інш. У 16—17 ст. бібліятэкі ствараліся пры навуч. установах (гл. *Бібліятэка навуковая Вільнюскага універсітэта, Бібліятэка Полацкай езуіцкай акадэміі*), пры калегіумах у Гродне, Брэсце, Мінску, Навагародку, Бабруйску і інш. Фарміруюцца буйныя свецкія прыватнаўласніцкія кніжныя зборы (*бібліятэка Радзівілаў* у Нясвіжы, *бібліятэкі Сапегаў, бібліятэка Храптовічаў, бібліятэка Багуслава Радзівіла* ў Слуцку і інш.). Прафесійнай службовай арыентацыяй вылучаюцца кніжныя зборы прадстаўнікоў «вольных навук», тагачаснай творчай і службовай інтэлігенцыі (гл. таксама *Бібліятэкі*).

Да арт. **Вялікае княства Літоўскае.** Арнат. Сярэдзіна 18 ст. Пінск.

Рост грамадскай патрэбы ў кнізе, пашырэнне міжнар. культурных сувязей і ўплыў заходнееўрапейскага *Адраджэння* абумовілі ўзнікненне бел. кнігадрукавання, заснавальнікам якога стаў выдатны гуманіст і асветнік Францішак Скарына. У 1517—19 у Празе ён падрыхтаваў, пераклаў, пракаменціраваў і выдаў Псалтыр і 22 кнігі Старога запавету Бібліі. У 1522 (або 1523) Скарына заснаваў першую ва Усходняй Еўропе друкарню і выдаў у Вільні «Малую падарожную кніжку», а ў 1525 — «Апостал». Моўныя і рэнесансава-гуманістычныя асв. традыцыі Скарыны развіваў С. Будны, адзін з заснавальнікаў *Нясвіжскай друкарні*, аўтар першых друкаваных на бел. мове вучэбна-канфесійных і палемічных твораў: «Катэхізіс» (1562), «Пра апраўданне грэшнага чалавека перад богам» (1562). Ён станоўча ацэньваў культуру еўрапейскага Адраджэння, выступаў за развіццё пісьменнасці і кнігадрукавання на родных мовах, за культ. сувязі з іншымі народамі. Аднадумцам С. Буднага ў яго рэфармацыйна-рэлігійных поглядах і асветніцкай дзейнасці быў В. М. Цяпінскі, які ў сваім радавым маёнтку Цяпіна на Полаччыне заснаваў друкарню, дзе ў 1570-я гады выдаў «Евангелле» паралельна на царк.-слав. і бел. мовах (захавалася прадмова да кнігі — адзін з лепшых узораў гуманістычна-асветніцкай патрыятычнай публіцыстыкі).

У 16 ст. Беларусь ахапіў шырокі рэфармацыйны рух, які знайшоў падтрымку ў шляхецкіх колах, сярод буйных магнатаў і гараджан. Дзеячы *Рэфармацыі*, звярнуўшыся да раннехрысціянскіх вучэнняў, заявілі пра неабходнасць усталявання ў грамадстве Свабоды, Роўнасці і Справядлівасці. Іх гуманістычныя лозунгі выконвалі мабілізуючую ролю, прыцягвалі да руху новых прыхільнікаў. З уздымам руху пратэстантаў звязана станаўленне рэфармацыйнага кнігадрукавання. Пратэстанты заснавалі друкарні ў Брэсце, Нясвіжы, Венграве, Вільні, Любчы, Слуцку, Уздзе, Лоску, Іўі, Ашмянах, у якіх выдалі некалькі соцень кніг, сярод іх *«Брэсцкая біблія»* (1563), *«Нясвіжская біблія»* (1572), «Новы Запавет» (1574), «Размова паляка з літвінам» (1564), «Гісторыя пра героя вызваленчай вайны супраць туркаў — Скандэрбега» (1569), «Пратэй, або Пярэварацень» (1564) і інш. Крызіс рэфармацыйнага руху ў ВКЛ у канцы 16 — 1-й пал. 17 ст., пераход уплывовых феадалаў, патронаў пратэстанцкіх абшчын у каталіцызм сталі прычынай аслаблення рэфармацыйнага кнігадрукавання ў ВКЛ. Прыкметны след у культуры Беларусі пакінулі І. Фёдараў і П. Мсціславец, якія перабраліся з Масквы ў ВКЛ і пры падтрымцы гетмана Р. Хадкевіча выдалі ў яго маёнтку Заблудава «Евангелле вучыцельнае» (1569) і «Псалтыр з Часаслоўцам» (1570). Пасля адыходу Хадкевіча ад выдавецкіх спраў Фёдараў працягваў выдавецкую дзейнасць у Львове і Астрогу, дзе ў 1580—81 была надрукавана Астрожская біблія, а Мсціславец па запрашэнні кнігавыдаўцоў Кузьмы, Лукі і Лявона Мамонічаў адрадзіў у Вільні кірылічнае кнігадрукаванне. У выніку ўскладнення сац.-паліт. умоў, палітыкі абмежавання брацкага кнігадрукавання гал. цэнтры кірылічнага кнігадрукавання з 2-й чвэрці 17 ст. перамясціліся ў Магілёў і Куцейна (каля Оршы). Творчыя ўзаемасувязі бел. і укр. народаў яскрава выявіліся ў дзейнасці вандроўнага бел. друкара С. Собаля (Кіеў, Куцейна, Магілёў), М. Слёзкі (Вільня, Львоў), П. Д. Люткевіча (Мінск, Угарцы, Луцк) і інш. Пэўнае развіццё ў 17—18 ст. атрымала уніяцкае кнігадрукаванне ў Вільні пры базыльянскім Траецкім манастыры (гл. *Віленская базыльянская друкарня*) і ў Супраслі. Супрасльская друкарня да пачатку 19 стагоддзя надрукавала больш за 120 кірылічных выданняў і каля 300 лацінска-польскімі шрыфтамі (гл. таксама *Кнігадрукаванне*).

У л-ры 13—15 ст. працягваліся кніжна-пісьмовыя традыцыі, закладзеныя ў папярэднія часы. У складзе рукапісных Палеяў, Патэрыкоў, Пралогаў, Мінеяў Святочнікаў распаўсюджваліся творы антычных і грэка-візантыйскіх

аўтараў. У 14 ст. пашырылася такая адметная з'ява сярэдневяковай л-ры ВКЛ, як летапісанне. *Летапісы беларускія*, публіцыстычныя паводле характару адлюстравання рэчаіснасці, абаранялі цэнтралізацыйныя імкненні вял князёў, абгрунтоўвалі іх гістарычна-прагрэсіўную палітыку збірання ўсх.-слав. земляў вакол аднаго цэнтра. Гэта выявілася ўжо ў *«Летапісцы вялікіх князёў літоўскіх»* (каля 1396). У «Пахвале Вітаўту» (канец 1420-х гадоў) услаўляліся ўчынкі вял. князя, яго асабістая мужнасць і шырокі кругагляд. У часы княжання Казіміра IV з'явілася летапісная «Аповесць пра Падолле» (каля 1432—35), у якой даказваліся гіст. правы вял. князёў на валоданне Падоліяй У *беларуска-літоўскім летапісе 1446* апраўдваліся дзеянні вял. князёў, накіраваныя на аб'яднанне земляў Цэнтр. Еўропы вакол Навагародка, а потым вакол Вільні. Ва ўсіх бел. летапісах праводзілася думка, што менавіта ВКЛ з'яўляецца непасрэдным пераемнікам гіст.-культ. традыцый усх. славян. У 1516 надрукавана лацінамоўная паэма Я. Вісліцкага «Пруская вайна» — неацэнны гіст дакумент і выдатны маст. помнік перамогі слав. народаў над крыжакамі ў Грунвальдскай бітве 1410, а ў 1523 — паэма Міколы Гусоўскага «Песня пра зубра», у якой апеты веліч бел. народа, яго кемлівасць і жыццядольнасць. У сувязі з прыняццем Брэсцкай уніі 1596 узнікла новая плынь палемічнай літаратуры. У абарону уніі выступілі П. Скарга, І. Пацей, І. Марахоўскі, Л. Крэўза і інш. Іх, у сваю чаргу, крытыкавалі праваслаўныя і пратэстанцкія аўтары К. Філалет, М. Смятрыцкі, Кірык Астрожскі і інш. У эпоху Адраджэння на Беларусі дзейнічалі віленскі, нясвіжскі і супрасльскі літ. гурткі, пры Куцеінскім манастыры — літ аб'яднанне, якое ў 1632—52 выдала 14 кніг. Вял. развіцця дасягнулі гамілетыка, царк красамоўства і жанр пропаведзі. Росквіт кніжнай паэзіі звязаны з літ. творчасцю А. Рымшы, С. і Л. Зізаніяў, Л. Мамоніча, М. Сматрыцкага, Філіповіча. У бел. паэзіі з'явіліся эмблематычныя вершы эпіграмы на фамільныя гербы князёў і гербы гарадоў, літаратурныя «ляманты» і паэтычныя «плачы», палемічная і сатыр. паэзія, павучальна-дыдактычны верш, вершаваныя прысвячэнні, храналогіі, дэкламацыі. Далейшае развіццё ў гэты час атрымала гіст. проза агульнадзярж летапісы саступілі месца мясц мемуарам *(Баркулабаўскі летапіс)* і дзеннікам («Дзеннік» Ф. Еўлашоўскага, дыярыушы Філіповіча, С. і Б. Маскевічаў і інш.) Неўзабаве пасля Аршанскай бітвы 1514 узнікла летапісная «Пахвала гетману Канстанціну Астрожскаму». Пабольшала цікавасць да еўрап. і сусв. гісторыі, на бел. мову былі перакладзены *«Вялікая хроніка»*, «Хроніка польская, літоўская, жамойцкая і ўсяе Русі» М. Стрыйкоўскага, *«Хроніка ўсяго свету»* М. Бельскага і інш. У эпоху Адраджэння і ранняга барока бел. л-ра ўзбагацілася перакладамі зах - еўрап. свецкіх твораў, сярод якіх былі рыцарскія раманы («Аповесць пра Баву», «Гісторыя пра Атылу», «Аповесць пра Трышчана»), гіст. аповесці («Александрыя», «Троя»), дыдактычныя навелы («Рымскія дзяянні», «Вялікае зярцала», «Аповесць аб сямі мудрацах», «Зорка прасветлая»), зборнікі фацэцый — вясёлых анекдатычных гісторый і жартаў. Некалькі выданняў вытрымалі падрыхтаваныя Б. Будным «Кароткія аповесці, якія па-грэчаску завуцца Апафегматы» — зборнік урыўкаў з твораў антычных і сярэдневяковых аўтараў. Працэс дэмакратызацыі, які ўсё больш ахопліваў бел. л-ру, праявіўся ў парадыйных і сатыр. творах: «Прамова Мялешкі» (1-я пал. 17 ст.) і «Ліст да Абуховіча» (1655). У 2-й пал. 17—18 ст. нарасталі працэсы паланізацыі і абмежавання сферы ўжытку бел. мовы, што адмоўна адбілася на развіцці беларускамоўнай л-ры. Большая колькасць літ твораў гэтага часу ўзнікла ў каталіцкіх і уніяцкіх асяродках — навуч установах і кляштарах. Гал. прадстаўніком барочнай л-ры часоў Асветніцтва быў паэт, філосаф і педагог Сімяон Полацкі. Асноўныя яго творы, асветніцкія паводле зместу, увайшлі ў зборнікі «Вертаград мнагацветны» (1678), «Рыфмалогіен» (1679), «Абед духоўны» (1681), «Вячэра духоўная» (1683). У 2-й пал. 17—18 ст. найвышэйшага росквіту дасягнула драматургія. На сцэнах школьных і прыватных тэатраў ВКЛ, якія існавалі ў Нясвіжы, Оршы, Гародні, Мінску, Жодзішках, Дарагічыне Надбужскім, Берасці, Слуцку, Навагародку, Пінску, Віцебску, Бабруйску, Слоніме, Мсціслаўе, Магілеве, Полацку, Лідзе, Жыровічах, ставіліся драмы розных тыпаў. мартыралагічныя («Новы Арэапагіт», Гародня, 1718), масленічныя («Сон чалавечага жыцця», 1733), канікулярныя («Палац Аляксандра — акадэмія мудрацоў», 1725), панегірычныя («Сонца ад ценю больш яркае», 1724). Найб. значных поспехаў у галіне драматургіі дасягнулі Ф. У. Радзівіл («Плод Божага прадбачання», 1746; «Золата ў агні», 1749; і інш.), Г. Каніскі («Уваскрэсенне мёртвых», 1746), М. Базылевіч («Дэкламацыя», 1752), К. Марашэўскі («Камедыя», 1787) і інш. (гл. таксама *Літаратура*).

Да арт **Вялікае княства Літоўскае.** «Хрыстос і нявеста» Гравюра з тытульнага ліста кнігі «Песня песням» Ф Скарыны 1518

Да арт **Вялікае княства Літоўскае.** Старонка «Хронікі Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага» Табольскі спіс 18 ст

Пасляхова развівалася музычнае мастацтва. З канца 15 ст. на Беларусі пашыраецца кантавая культура, з 2-й пал. 16 ст.— партэсныя спевы, станаўленню якіх садзейнічала падрыхтоўка спевакоў у манастырскіх і брацкіх школах (напр., у 1630-я гады ў Магілеўскім брацтве існаваў мяшаны 4-галосы хор). З 17 ст пры калегіумах і дварах магнатаў існавалі капэлы — калектывы мяшанага тыпу, якія складаліся з аркестра і групы салістаў-вакалістаў. Яны суправаджалі спектаклі тэатраў, балі, паляванні, рэліг. службы, ваен. парады. Музыкантаў рыхтавалі ў прыватных школах у Слуцку, Нясвіжы, Гародні, Слоніме і інш., часам за мяжой У 18 ст ў прыватнаўласніцкіх гарадах, замках і сядзібах існавалі маянтковыя прыгонныя тэатры. Найб. вядомыя з іх: Радзівілаў у Нясвіжы і Слуцку, М. К. Агінскага ў Слоніме, А. Тызенгаўза ў Гродне і інш. Пры многіх тэатрах дзейнічалі балетныя трупы. Танцоўшчыкаў рыхтавалі ў балетных школах у Гродне, Нясвіжы, Слоніме, Слуцку, Шклове і інш. Прафесійны ўзровень маянтковых тэатраў дазваляў ім мець багаты і разнастайны рэпертуар, які складаўся з опер, балетаў, трагедый і камедый

У 14—1-й пал. 16 ст. асноўным тыпам манументальных збудаванняў у ВКЛ быў

замак, якому ўласціва спалучэнне горадабудаўнічых, ваенных, жылых і прадстаўнічых функцый. Адны з іх размяшчаліся на натуральных узвышшах (выш. 30—40 м) і мелі ў плане паліганальную форму, адпаведную рэльефу (*Навагрудскі замак, Гродзенскі Стары замак*). Напачатку ў іх былі пераважна драўляныя сцены-гарадні з адной магутнай мураванай вежай. На мяжы 15 ст. драўляныя сцены і вежы заменены мураванымі, пастаўлены дадатковыя вежы. Да другога тыпу належалі цалкам мураваныя замкі-кастэлі ў плане, блізкім да квадрата, з штучнымі землянымі ўмацаваннямі (*Крэўскі замак, Лідскі замак*, замкі ў Медніках і Троках). У 15—16 ст. пашыраецца будаўніцтва драўляных і мураваных прыватнаўласніцкіх замкаў (*Іказненскі замак, Геранёнскі замак, Любчанскі замак, Радашковіцкі замак* і інш.). Найвышэйшым дасягненнем нац. абарончага дойлідства стаў *Мірскі замак.*

У 1-й пал. 16 ст. сфарміраваўся самабытны 4-вежавы тып праваслаўнага храма, які спалучаў сакральную і абарончую функцыі (*Мураванкаўская царква-крэпасць, Супрасльская царква-крэпасць, Сынковіцкая царква-крэпасць, Полацкі Сафійскі сабор,* Мікалаеўскі сабор у Брэсце). Інтэнсіўна будаваліся ў гэты час і каталіцкія храмы, для якіх характэрна аднанефавая, аднаапсідная аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя з рознымі варыянтамі гал. фасадаў (Ішкалдскі Троіцкі касцёл, Іўеўскі касцёл бернардзінцаў, касцёлы францысканцаў і Св. Ганны ў Вільні і інш.). Манументальным цывільным і культавым збудаванням 14—1-й пал. 16 ст. ўласцівы рысы зах.-еўрапейскай готыкі з адметнымі нац. асаблівасцямі ў кампазіцыі, пабудаванай на спалучэнні рамана-візантыйскіх архітыпаў, у канструкцыі, прыстасаванай да абароны, і дэкоры, заснаваным на традыцыйнай чырвона-белай паліхроміі. У вольных гарадах, якія атрымалі самакіраванне паводле магдэбургскага права, фарміраваліся новыя адм.-гандл. цэнтры, дзе канцэнтраваліся грамадскія будынкі (ратушы, цэрквы, касцёлы, крамы). Па-ранейшаму важная роля належала гар. умацаванням, якія ў вял. гарадах утваралі развітую абарончую сістэму (Віцебскія, Полацкія, Магілёўскія замкі). Увядзенне ў ваен. будаўніцтва зах.-еўрап. фартыфікацыйных сістэм спрыяла паступовай трансфармацыі замкаў у палацава-замкавыя комплексы, спалучэнню ў іх абарончых і грамадскіх функцый (Гродзенскі Стары замак, Віленскі Ніжні замак, *Нясвіжскі замак, Ляхавіцкі замак, Гальшанскі замак, Смалянскі замак*). Акрамя палацава-замкавых комплексаў з унутраным дваром атрымаў пашырэнне тып палаца з кампактнай цэнтральна-восевай планіроўкай без унутранага двара (*Гайцюнішскі дом-крэпасць,* Рагачоўскі і Ружанскі замкі). З пашырэннем у сярэдзіне 16 ст. рэфармацыйнага руху па фундацыях магнатаў-пратэстантаў пабудаваны кальвінскія зборы ў Асташыне, Койданаве, Дзераўной, Заслаўі, Замосці, Новым Свержані. Гэтыя пабудовы пераняялі зальны аднаапсідны аднавежавы тып гатычнага касцёла, але набылі рэнесансавы ордэрны дэкор. Першым узорам архітэктуры барока ў ВКЛ і Рэчы Паспалітай з'явіўся *Нясвіжскі касцёл езуітаў* (1587—93), пабудаваны арх.-італьянцам Дж. М. Бернардоні. Праваслаўныя храмы на працягу 17—18 ст. амаль усе будаваліся драўлянымі. У 17 ст. ва ўсх. ваяводствах ВКЛ заснаваны шэраг праваслаўных манастыроў, драўляныя саборы якіх трансфармавалі ў танным мясц. матэрыяле ідэю візантыйскага крыжова-купальнага храма (Богаяўленскі сабор Аршанскага Куцеінскага манастыра, Святадухаўскі сабор Мсціслаўскага Тупічэўскага манастыра, Троіцкі сабор Віцебскага Маркава манастыра і інш.). У архітэктуры уніяцкіх храмаў 1-й пал. 18 ст. складваліся самабытныя рысы позняга нац. барока, т. зв. віленскага. У іх кампазіцыі былі знітаваны рамана-візантыйскія ўплывы, найбагацейшая пластычная распрацоўка фасадаў і інтэр'ераў, своеасаблівы прапарцыянальны лад і сілуэт збудаванняў (Полацкі Сафійскі сабор, уніяцкія цэрквы ў Беразвеччы, Быцені, Барунах, Вольна, Жыровічах, Оршы, Віцебску, Талачыне і інш.). Стылістычныя прыёмы віленскага барока выкарыстоўваліся і ў храмавым будаўніцтве іншых канфесій (касцёл кармелітаў у Глыбокім, Спаса-Праабражэнскі сабор у Магілёве), а таксама ў

Да арт. Вялікае княства Літоўскае. Мураванкаўская царква-крэпасць (Шчучынскі р-н). 16 ст.

Да арт. Вялікае княства Літоўскае. Нясвіжскі палац. 16—18 ст.

цывільным і палацавым дойлідстве. Палацавае будаўніцтва да гэтага часу канчаткова страціла абарончы характар і стала больш рэпрэзентатыўным, што стымулявала развіццё садова-паркавага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва (новы каралеўскі палац у Гродне, палацы ў Дзятлаве і Слоніме; гл. таксама *Архітэктура*).

У ВКЛ развіваліся ўсе віды выяўл. мастацтва. Хоць помнікаў манументальнага жывапісу 14—15 ст. на Беларусі не захавалася, але пра плённае развіццё гэтага віду мастацтва сведчаць літ. і архіўныя крыніцы. У канцы 16—1-й пал. 17 ст. пашыраецца кола сюжэтаў, структура агульнай сістэмы размалёвак становіцца больш адвольнай, насычанай канкрэтнымі дэталямі. У манументальных размалёўках 2-й пал. 17 ст.назіраецца пранікненне эстэтычных прынцыпаў барока. Размалёўкі становяцца больш мабільныя, яны паступова вызваляюцца ад кананічных прыёмаў, вызначаюцца экспрэсіўным малюнкам, разнастайнасцю тыпажу (размалёўка Мікалаеўскай царквы ў Магілёве, 1669—72). У 18 ст. ў стылі барока выкананы размалёўкі ў кармеліцкіх касцёлах Мсціслава, Бялынiч, Магілёва. Рысы позняга барока і ранняга класіцызму спалучаюць размалёўкі касцёлаў у Нясвіжы і Гродне. Рысамі ранняга класіцызму пазначаны размалёўкі царквы Раства Багародзіцы ў Слаўгарадзе. Своеасаблівасць размалёвак у Мсціславе — адлюстраванне ў іх падзей вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 («Узяцце Мсціслава рускімі войскамі», «Трубяцкая разня» і інш.). Значную цікавасць маюць размалёўкі кармеліцкага Станіславаўскага касцёла ў Магілёве (маст. П. Піятроўскі, А. Главацкі, 1765—67). Размалёўкі Нясвіжскага езуіцкага касцёла (маст. К. Д. Гескі-старэйшы, 1750) уключаюць больш як 40 кампазіцый, Гродзенскага фарнага касцёла езуітаў — 14 сцэн, Слаўгарадскай царквы Раства Багародзіцы — каля 60 сюжэтаў на тэмы Старога і Новага запаветаў.

Раннія творы іканапісу (14—15 ст.) ствараліся пад уплывам візантыйскага мастацтва. У 2-й пал. 16 ст. ў іканапісе адчуваюцца рысы Адраджэння, з'яўляюцца элементы бытавога этнагр. характару, арх. кулісы; кампазіцыі вызначаюцца прасторавасцю пабудовы. У іканапісе 1-й пал. 17 ст. захоўваюцца рэнесансавыя традыцыі, пра што сведчаць натуральнасць поз і жэстаў, простанародны тыпаж, пераканаўчая перадача аб'ёмаў і куліс. Фоны абразоў часта ўпрыгожваліся сакавітым разьбяным залачоным арнаментам, які надаваў твору надзвычайную дэкаратыўнасць. Жанравую сцэну са шматлікімі пабытавымі і этнагр. дэталямі нагадвае абраз «Нараджэнне Маці Боскай» Пятра Яўсеевіча з Галынца, 1649. У іканапісе 2-й пал. 17 ст. часцей сустракаецца мясцовы тыпаж, узмацняецца сэнсавая нагрузка фону, які актыўна ўздзейнічае на кампазіцыю ўсяго твора. Каб узмацніць выразнасць твора, мастакі выкарыстоўвалі прыёмы экспрэсіўнай дэфармацыі фігур і жэстаў пры захаванні натуральнасці дэталяў адзення і інтэр'ера. Тыповыя творы той пары — абразы з в. Бездзеж Драгічынскага р-на («Параскева з жыціем», «Уваскрэсенне», «Ілья з жыціем» і інш.). У 18 ст. складваюцца рэгіянальныя жывапісныя школы, сярод якіх вылучаюцца Магілёўская і Гомельская. Самабытнасцю адметны творы Брэсцкага Палесся. У мастацтве Гродзеншчыны адчуваюцца заходнееўрап. матывы, арыентацыя на ўзоры польскага і італьянскага жывапісу (гл. таксама *Беларуская іканапісная школа*).

Да арт. **Вялікае княства Літоўскае.** Абраз «Маці Боская Адзігітрыя». Канец 15 — пач. 16 ст. Дзярж. маст. музей Беларусі.

Да арт. **Вялікае княства Літоўскае.** Абраз «Успенне». 1650. Дзярж. маст. музей Беларусі.

Буйнымі цэнтрамі партрэтнага мастацтва былі Вільня, Нясвіж, Супрасль, Слуцк. Шмат партрэтаў створана мясц. майстрамі, якія працавалі пры дварах магнатаў. Невядомымі тагачаснымі мастакамі створаны цікавыя партрэты кн. Кацярыны Слуцкай (1580), кн. Юрыя Алелькавіча, старосты ваўкавыскага і ваяводы брэсцкага Юрыя Тышкевіча, Льва Сапегі (усе канец 16 ст.). Фарміруецца тып т. зв. *партрэта сармацкага* з уласцівай яму ўрачыстасцю і параднасцю, з вял. увагай да атрыбутаў і гербаў, да фактуры прадметаў і дэталяў адзення. Уплыў еўрапейскага жывапісу адчуваецца ў партрэтах Юрыя Радзівіла і Альбрэхта Станіслава Радзівіла. У 17—18 ст. складваюцца такія тыпы партрэтаў, як парадны, рыцарскі, *партрэт пахавальны*. Рысы параднасці праяўляюцца ў партрэтах А. Астрожскага (1660—70-я гады) і Януша Карыбута Вішнявецкага, якія вызначаюцца тонкім каларытам, па-майстэрску дакладнай перадачай фактуры адзення, стужак, карункаў. Ад сармацкага партрэта істотна адрозніваюцца выявы Ігнацыя Завішы (1732) і Ганны Катажыны Радзівіл, у якіх падкрэслена ўнутраная энергія асобы. Бел. жывапіс 18 ст. ўвабраў лепшыя дасягненні рэалістычнага зах. мастацтва, захаваўшы мясц. самабытнасць.

З развіццём кнігадрукавання з'явіўся новы від бел. графікі — кніжны дрэварыт. Яго ўзнікненне звязана з дзейнасцю Скарыны, у выданнях якога змешчана вял. колькасць сюжэтных кампазіцый, ілюстрацый прыкладнога характару, дэкаратыўна-арнаментальных аздоб-заставак, канцовак і ініцыялаў. Значных поспехаў дасягнула і металагравюра (медзярыт, афорт), у развіццё якой вял. ўклад зрабіў гравёр, друкар і картограф Т. Макоўскі, што ў пач. 17 ст. працаваў пры двары Радзівіла Сіроткі ў Нясвіжы. У тэхніцы металагравюры працавалі і замежныя і мясц. майстры барока: Аляксандр і Лявонцій Тарасевічы, Мікола Шышкевіч, Конрад Гётке, Іаан Энгельгарт і інш.; большасць з іх супрацоўнічала з *Віленскай акадэмічнай друкарняй*. У жанры станковай графікі працаваў галандскі жывапісец Абрахам ван Вестэрфельд. Ён стварыў шэраг партрэтаў і батальных кампазіцый, у аснове якіх сапраўдныя гіст. падзеі («Здача Бабруйска», «Паланенне М. Крычэўскага пад Лоевам» і інш.). Больш за 40 кніг выдала *Магілёўская брацкая друкарня*, лепшыя з іх выпушчаны на стыку 17 і 18 ст., калі ёю кіраваў М. Вашчанка, які заклаў асновы магілёўскай гравёрнай школы. У друкарні працавалі В. і А. Вашчанкі, Ф. Ангілейка, Афанасій П., М. Антушкевіч, М. Чарняўскі і інш. У 18 ст. вядучым відам графікі па-ранейшаму заставалася кніжная гравюра, значнае развіццё атрымаў графічны партрэт. Вял. укладам у развіццё гэтага жанру стаў альбом «Выява родаў князёў Радзівілаў» (Нясвіж, 1758), у якім змешчана 165 партрэтаў (гл. таксама *Кніжная графіка*).

Паяўленне паліхромнай драўлянай скульптуры звязана з пашырэннем на Беларусі каталіцызму, будаўніцтвам тут шматлікіх касцёлаў і кляштараў. Самы ранні помнік драўлянай скульптуры, што захаваўся да нашага часу,— «Распяцце» (в. Галубічы Глыбоцкага р-на, 14 ст.), пазначаны рысамі раманскага стылю. У 15 — пач. 16 ст. пад уплывам гатычнага мастацтва ў касцёлах з'яўляюцца створкавыя алтары-рэтаблі — складаныя скульптурна-жывапісныя комплексы, якія становяцца іх гал. сэнсавай і дэкаратыўнай дамінантай. З іх захаваліся толькі асобныя скульптуры (св. Марыя і св. Іаан, в. Мсцібава Ваўкавыскага р-на). На мяжы позняй готыкі і рэнесансавых тэндэнцый полацкімі майстрамі выраблена скульптура «Св. Гжэгаж», выразнасць якой набліжаецца да партрэтнай. Для бел. скульптуры 16 ст. характэрны рысы Адраджэння, што адчуваецца ў выбары тыпажу, у дасканалай апрацоўцы форм чалавечай фігуры, пільнай увазе да побытавай дэталі. Традыцыі Адраджэння значна паўплывалі і на развіццё надмагільнай скульптуры. Захаваліся фрагменты надмагілляў канцлера ВКЛ Альбрэхта Гаштольда (скульптар Бернардзін Занобія дэ Джаноціс, паміж 1539 і 1541) і віленскага біскупа Паўла Гальшанскага (майстэрня Падавана, каля 1540, абодва — Кафедральны сабор у Вільні). У першым помніку яшчэ адчуваюцца гатычныя традыцыі, другі пазначаны ўжо рысамі новага часу. Да канца 16 — пач. 17 ст. адносяцца фрагмент помніка з выявай спячага дзіцяці з Мірскага замка і надмагільны рэльеф малалетняга сына Радзівіла Сіроткі — Мікалая Крыштофа (Нясвіжскі касцёл езуітаў, пасля 1588). Традыцыі рэнесансу ў надмагільнай скульптуры трымаліся працяглы час, але паступова пачалі пранікаць рысы, звязаныя з маньерызмам і ранним барока. У 1-й пал. 17 ст. створаны шэраг алтарных комплексаў, багата аздобленых разьбой, скульптурай, жывапіснымі творамі. Унікальным па мастацкай дасканаласці з'яўляецца скульптурны ансамбль у стылі ранняга барока ў касцёле аўгусцінцаў у в. Міхалішкі Астравецкага р-на (італьянскія скульптуры П. Перці і Ян Галі, 1677). У ім гал. дэкаратыўную нагрузку нясе цэнтр. алтар са скульптурамі Іаана Хрысціцеля і Лукі, а таксама рэльефныя выявы апосталаў на кансолях, размешчаных каля хораў, па вуглах на 4 пілястрах, каля алтара. У бел. храмах пач. 18 ст. ствараецца шэраг алтарных комплексаў, у канструкцыйных вырашэннях якіх назіраюцца новыя рысы. Алтары павялічваюцца ў памерах, становяцца больш складанымі па сілуэту, насычанасці фігурнай і арх. пластыкай. Выключнае месца ў гэтых адносінах належыць комплексу алтароў (галоўны, 6 бакавых алтароў і амбон) Францысканскага касцёла Успення Дзевы Марыі ў Пінску (1712—30), дзе каля 100 скульптур ствараюць атмасферу ўрачыстасці і ўзнёсласці. Архітэктурнае і скульптурна-дэкаратыўнае афармленне інтэр'ераў вял. касцёлаў таго часу ў значнай ступені арыентавана на вобразна-стылявыя прыёмы еўрапейскага барока. У інтэр'еры Гродзенскага езуіцкага касцёла, які мае 12 алтароў, асноўную сэнсавую і дэкаратыўную нагрузку нясе гал. алтар з фігурамі 12 апосталаў, выявай прапаведніка Францыска Ксаверыя і алегарычных персанажаў, што сімвалізуюць краіны свету. У 1-й пал. 18 ст. ствараюцца скульптуры «нізавога» барока. Яны вызначаюцца экспрэсіўнасцю пластычнай мовы і павышанай цікавасцю да ўнутранага свету чалавека (апосталы Пётр і Павел, в. Дварэц Драгічынскага р-на). Тыпаж гэтага стылю часам выглядае простанародным, постаці каржакаватыя, для большай выразнасці шырока выкарыстоўваецца дэфармацыя твару і фігуры.

Да арт. **Вялікае княства Літоўскае.** Партрэт Ігнацыя Завішы. 1732. Невядомы мастак Дзярж. маст. музей Беларусі.

Да арт. **Вялікае княства Літоўскае.** Гжэгаж Драўляная скульптура. 1470—80.

У дэкаратыўна-прыкладным мастацтве 14—18 ст. вядучымі галінамі заставаліся мастацкая апрацоўка металу і ювелірныя вырабы. Шмат твораў ювелірнага мастацтва зроблена для цэркваў, касцёлаў манастыроў (культавае начынне, абклады кніг і абразоў). Так, абклад Лаўрышаўскага евангелля (14—15 ст.), пацір з Ружан (канец 15 — пач. 16 ст.) маюць некаторыя гатычныя рысы. Арганічнае перапляценне рэнесансавых і гатычных традыцый прасочваецца ў пацiры з Навагрудка (16 ст.). Засвойваючы асаблівасці зах.-еўрапейскага мастацтва, бел. майстры захоўвалі і традыцыі, закладзеныя яшчэ ў эпоху Кіеўскай Русі (алтарны крыж з Давыд-Гарадка, канец 16 — пач. 17 ст.; полацкі крыж-рэлікварый). Поспехі былі і ў званаліцейнай справе (Віцебск, Полацк, Вільня, Дзісна і інш.). У сярэдзіне 18 ст. на Беларусі існавала шмат чыгуналіцейных заводаў, якія побач з утылітарнымі рэчамі выпускалі і мастацкія вырабы: літыя надмагільныя агароджы, з бронзы і волава — асвятляльныя прылады, пісьмовыя прыборы і свечачнікі. Значнага развіцця дасягнула шкларобства. У 16 ст. ўзніклі шкляныя гуты ў Гродне, Магілёве, Полацку, Брэсце, Любчы, Шклове, Навагрудку, Тураве, Пінску і інш. Яны выраблялі гладкасценныя чаркі з масіўнымі донцамі, цыліндрычныя флаконы, бутэлькі з шарападобным тулавам і высокай гарлавінай. З павелічэннем попыту на вырабы са шкла ўзнікалі новыя і ўзбуйняліся старыя прадпрыемствы, найбуйнейшымі з якіх былі *Налібоцкая шкляная гута* і *Урэцкая шкляная мануфактура.* Іх вырабы адметныя высокім узроўнем апрацоўкі, дасканалай тэхнікай шліфоўкі і гравіроўкі.

Вял. ролю ў афармленні свецкіх і культавых інтэр'ераў адыгрывала кафля. У арх.-дэкаратыўнай кераміцы рана праявіўся ўплыў італьянскага рэнесансу (карнізная кафля з Крычава і Міра). У 17 ст. яна актыўна засвоіла прынцыпы барока, што знайшло ўвасабленне і ў дэкоры кафлі, і ў яе тэхналогіі. Вял. заслуга бел. майстроў ва ўдасканаленні канструкцыі пячной абліцоўкі, ператварэнні пласкай кафлі ў арх. дэталь, што дазволіла ствараць 3-ярусныя алтарныя перагародкі. У ліку вядучых галін дэкар.-прыкладнога мастацтва 14—18 ст. было ткацтва. У 16—17 ст. ткацкія цэхі існавалі ў Мінску, Слуцку, Копысі, Нясвіжы, Клецку, Любчы, Міры, Ружанах, Карэлічах, Быхаве, Магілёве і інш. У 18 ст. ство-

раны буйныя мануфактуры ў Ружанах, шаўковыя каралеўскія мануфактуры Тызенгаўза ў Гродне. У 1740-я гады ўзнікла «персіярня» па вырабе золата- і шаўкатканых паясоў у Слуцку, якія вызначаліся надзвычай высокім мастацкім узроўнем. На Гродзенскай каралеўскай, Слонімскай і Карэліцкай мануфактурах выраблялiся шпалеры з выявамі магнатаў, ваенных баталій («Бітва пад Славечнам» і інш.). Гл. таксама *Выяўленчае мастацтва.*

*Т. В. Габрусь, Г. Я. Галенчанка, А. К. Ляявонава, І. В. Саверчанка.*

**Крыніцы.** Асн. пісьмовыя крыніцы па гісторыі ВКЛ 13—16 ст. падзяляюцца на дакументальныя (акты, заканадаўчыя дакументы, матэрыялы бягучага справаводства) і наратыўныя (апавядальныя). [Важнейшыя архіўныя крыніцы (не лічачы кніг Метрыкі ВКЛ) па гісторыі Беларусі 13—16 ст. апублікаваны. Некаторыя расійскія і сав. публікацыі, гал. чынам актавага характару, змешчаны ў археагр. зборніках з 1824 па 1940, асветлены ў манаграфіі: Улащик Н. Н. Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода. М., 1973. Гл. таксама: Jablonskis K. Istorija ir jos šaltiniai. Vilnius, 1979; Kosman M. Średniowieczna dyplomatyka litewska — stan i potrzeby badawcze // Zeszyty Naukowe Uniwersytetu im. Adama Mickiewicza w Poznaniu. Historia. 1967. N 7; Ковальский Н. П. Источниковедение истории Украины XVI — первой половины XVII в. Днепропетровск, 1977—83. Ч. 1—7 (назва працы ў некаторых выпусках змянялася); Игнатенко А. П. Введение в историю БССР: Периодизация, источники, историогр. Мн., 1965; Каштанов С. М. Русская дипломатика. М., 1988; Методические рекомендации по изданию и описанию Литовской метрики / Сост. А. Л. Хорошкевич, С. М. Каштанов. Вильнюс, 1985].

**Акты і граматы.** У актах і граматах, якія ўзніклі ў сферы сац.-эканам. і сац.-паліт. адносін, афармлялася феад. права на зямельную і інш. нерухомую уласнасць, зацвярджалася ўлада феадалаў над непасрэднымі вытворцамі, вызначаліся аб'ём і формы феад. імунітэту, павіннасці сялянства, становішча гар. насельніцтва. Гэтыя крыніцы важныя для вывучэння працэсу фарміравання феад. землеўладання, панскай і сялянскай гаспадаркі, сац. структуры насельніцтва, форм і ўзроўню эксплуатацыі розных катэгорый сялянства, фарміравання мяшчанскага саслоўя, становішча розных сац. пластоў і груп, палітыкі вярх. улады ў адносінах да сялянства, феадалаў, горада. Паводле паходжання большасць упомненых актаў і грамат класіфікуюцца як прыватна-прававыя і публічна-прававыя. Да першых адносяцца: дакументы, афармленыя прыватнымі асобамі, дадзеныя, духоўныя, купчыя, менавыя, раздзельныя, пазыковыя,

Да арт. **Вялікае княства Літоўскае.** Фрагмент сярэбранага рыцарскага пояса. 2-я пал. 17 ст.—1730-я гады. Віцебскі абл. краязнаўчы музей.

статутныя, ільготныя граматы залежным сялянам, мяшчанам і інш. Да публічна-прававых адносяцца дакументы ўрадавага паходжання: прывілеі, якія замацоўвалі зямлю, інш. нерухомую ўласнасць за феадаламі, зацвярджалі судовыя прывілеі, што вызвалялі землеўладальнікаў ад падаткаў і павіннасцей, давалі ім права на збор гандлёвых і мытных пошлін, на ўладкаванне гарадоў, мястэчак, кірмашоў, корчмаў і інш. (Хорошкевич А. Л. Жалованные грамоты Литовской метрики конца XV в. и их классификация // Источниковедческие проблемы истории народов Прибалтики. Рига, 1970), акты і граматы феад. суда, «уставы», «выракі», «прывілеі», выдадзеныя велікакняжацкай адміністрацыяй гарадам, валасцям, гаспадарскім мяшчанам і сялянам.

Уставы (Мазырскай, Магілёўскай валасцям 1509, 1536, кіраўнікам паднепроўскіх валасцей 1500, мяшчанам і сялянам Чачэрскай воласці 1554 і інш.) вызначалі памеры падаткаў і павіннасцей насельніцтва, узаемаадносіны з мясц. уладай. Для гісторыі гаспадарскага землеўладання найб. важныя гасп. уставы для зах. і ўсх. валасцей ВКЛ 1514, 1529, 1542 [Публікацыі: Акты, относящиеся к истории Западной России (АЗР). Спб., 1848. Т. 2, № 86, 159, 195, 199; Архив Юго-Западной России (ЮЗР). 1876. Ч. 6, т. 1. Гл.: Любавский М. К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского статута. М., 1892, прил. № 23; Пичета В. И. Белоруссия и Литва XV—XVI вв. М., 1961. С. 161—163], «устава» старостам, дзяржаўцам і ўраднікам сярэдзіны 16 ст. [Русская историческая библиотека (РИБ). Спб., 1914. Т. 30. С. 599—622; Бережков Н. «Устава замков, держав и дворцов» Сигизмунда Августа, предшествовавшая «волочной уставе» // Журн. Мин-ва нар. просвещения (ЖМНП). 1911. № 5]. «Устава на валокі» 1557 і спадарожныя ёй дакументы вызначалі прынцыпы валочнай памеры, арганізацыі фальваркова-паншчыннай сістэмы ў гаспадарскіх уладаннях (РИБ. Т. 30. С. 539—591; Памятники, изданные Временною комиссиею для разбора древних актов, высочайше утверждённою при киевском военном, подольском и волынском генерал-губернаторе. Киев. 1846. Т. 2. С. 513—548; Копысский З. Ю. Новые документы об аграрном строе Белоруссии XVI — первой половины XVII в. // Сов. славяноведение. 1980. № 1). Вял. значэнне для вывучэння сац.-паліт., эканам. і культурнага развіцця бел. гарадоў і мястэчак, працэсу фарміравання гар. саслоўя маюць прывілеі на магдэбургскае права, самыя старажытныя з якіх адносяцца да канца 14—15 ст. (Брэст 1390, 1408, 1440, Гродна 1391, 1496, Слуцк 1441, Полацк 1498, Мінск, 1489, Навагрудак 1511 і інш.). У 15—1-й пал. 16 ст. падобныя прывілеі атрымалі каля 20 гаспадарскіх і прыватнаўласніцкіх гарадоў і мястэчак Беларусі (Копысский З. Ю. Социально-политическое развитие городов Белоруссии в XVI — первой половине XVII в. Мн., 1975. С. 21—30; Тарановский Ф. В. Обзор памятников магдебургского права западнорусских городов литовской эпохи: Ист.-юрид. исслед. Варшава, 1897). Прывілеі на магдэбургскае права ўстанаўлівалі новую аднатыпную ў сваіх асн. рысах сістэму гар. самакіравання, рэгулявалі грамадска-паліт. жыццё і сац.-эканам. дзейнасць гараджан, іх саслоўна-прававое становішча, парадак выбрання магістрата, яго функцыі, дзярж. павіннасці і гар. даходы. У іх сустракаюцца звесткі пра гандаль, знешнегандлёвыя сувязі, рамяство, гар. добраўпарадкаванне і ўстановы (ратушы, «важніцы», «пастрыгальні», «лазні»). Пераважна да сац.-паліт. сферы адносяцца дакументы, якія характарызуюць унутрыпаліт. адносіны [вярх. улады з землямі і княствамі ВКЛ, граматы дзярж. кіравання, прывілеі на дзярж. пасады («вряды» ваявод, намеснікаў, староставаў, гетманаў, канцлераў, маршалкаў, кашталянаў і інш.)]. Асобную групу складаюць афіцыйныя дакументы, якія асвятляюць знешнепаліт. адносіны заходнярус. княстваў ВКЛ з інш. стараж.-рус. княствамі, Польшчай, Прусіяй у 13—15 ст. (Liv-, Esth- und Curländisches Urkundenbuch nebst Regesten / Hrsg. von F. G. von Bunge. Bd. 1—11. Revel; Riga, 1853—1905; Kodeks dyplomatyczny Litwy / Wyd. E. Raczyńskiego. Wrocław, 1845; Regesta Lithuaniae ab origine usque ad Magni Ducatus cum Regno Poloniae unionem / Coll. H. Paszkiewicz. Varsoviae, 1930. T. 1; Prochaska A. Codex epistolaris Vitoldi Magni ducis Lithuaniae, 1376—1430. Kraków, 1882). Значную групу

новых дакументаў (гл. *Полацкія граматы*; 110 з 322), што характарызуюць паліт. і сац.-эканам. адносіны Полацкага княства з Літвой, Рыгай, Лівонскім ордэнам, выявіла і пракаменціравала Г. Л. Харашкевіч (Полоцкие грамоты XIII — начала XVI вв. / Сост. А. Л. Хорошкевич. М., 1977—89. Вып. 1—6). Дыпламатычныя дакументы ВКЛ (частковы агляд надзвычай шматлікіх публікацый, што ўключаюць дыпламатычныя дакументы, гл. ў кн.: Улащик Н. Н. Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода...) дазваляюць высвятліць некаторыя асаблівасці ўнутранай палітыкі вярх. улады на Беларусі, прасачыць гісторыю ўключэння ўсходнеслав. земляў у яго склад, ваенна-паліт. барацьбу, стараж.-рус. паліт. спадчыну. У гэтых матэрыялах ёсць звесткі пра ўдзел бел. дзеячаў, паслоў, чл. рады ў знешнепаліт. зносінах [гал. чынам з Расіяй (Памятники дипломатических сношений Московского государства с Польско-Литовским государством. Т. 1—3. Спб., 1882—92), радзей — з Польшчай, Ардой, Крымскім ханствам], выпрацоўку знешнепаліт. дактрын. Закранаюцца ў іх і пытанні знешняга гандлю, царк.-рэлігійных і культурных сувязей, што датычаць Беларусі і інш. земляў ВКЛ. Зводных публікацый міжнар. актаў і пагадненняў, заключаных ВКЛ, няма. Спроба, зробленая ў свой час М. Догелем, не была даведзена да канца [Dogiel M. Codex diplomaticus Regni Poloniae et Magni Ducatus Lithuaniae... Vilnae, 1758. T. 1 (1067—1732); 1759. T. 5 (1119—1759); 1764. T. 4 (1212—1739)]. Асноўныя акты уніі ВКЛ і Польшчы ўвайшлі ў фундаментальнае выданне С. Кутшэбы і У. Сямковіча (Kutrzeba S., Semkowicz W. Acta unji Polski z Litwą, 1385—1791. Kraków, 1932). «Даканчальныя» і дагаворныя граматы з Маскоўскім княствам і Наўгародскай рэспублікай вывучаны ў манаграфіях і зборніках (Черепнин Л. В. Русские феодальные архивы XIV—XV веков. М.; Л., 1948. Т. 1; Духовные и договорные грамоты великих и удельных князей XIV—XVI вв. М.; Л., 1950; Грамоты Великого Новгорода и Пскова. М.; Л., 1949). Матэрыялы пра Полацкі паход 1563 і інш. падзеі *Лівонскай вайны 1558—83* даследаваны Бугановым В. І. (Буганов В. И. Документы о Ливонской войне // Археогр. ежегодник (АЕ), 1960. М., 1962).

У групе дакументаў, якія адносяцца да сферы царкоўна-рэлігійных адносін, можна вылучыць: прывілеі царкве і духавенству на землі, нерухомую маёмасць, імунітэтныя правы, духоўныя пасады («хлябы духоўныя» на Беларусі), прыватна-прававыя акты і граматы (укладныя, «фундушы», «наданні», уставы манастырам), судовыя рашэнні па справах царквы і духавенства; акты і граматы царкоўных інстанцый, уставы, купчыя, закладныя і інш. акты мітрапалітаў, епіскапаў, царкоўных сабораў [Акты, издаваемые Виленской археографической комиссией (АВАК). 1908. Т. 33. Акты, относящиеся к истории западнорусской церкви; Собрание древних грамот и актов городов Минской губернии, православных монастырей, церквей и по разным предметам. Мн., 1848; Описание документов архива западнорусских униатских митрополитов. Т. 1. Спб., 1897; АЗР. Т. 1—4. Спб., 1846—51; РИБ. Т. 4, 6, 27; Kodeks dyplomatyczny katedry i diecezji wileńskiej. Kraków, 1948. T. 1 (1387—1507)]. Прывілеі вызначалі таксама сац.-прававы статус розных этнічных пластоў мясцовага насельніцтва (АВАК. 1901—02. Т. 28—29. Акты о евреях; Бершадский С. А. Документы и регесты к истории литовских евреев. Т. 1—2. Спб., 1882; АВАК. 1906. Т. 31. Акты о литовских татарах). Большасць актаў і грамат, што захаваліся, узніклі ў сферы сац.-паліт. і сац.-эканам. адносін у 14—15 ст., узноўлены ў серыйных археаграфічных выданнях [Гал. чынам: АВАК. 1865—1908. Т. 1—3, 5—7, 9—11, 13—14, 17—18, 24—25, 33; АЗР. Т. 1—4; Археогр. сб. (АС). 1867—70, 1890. Т. 1—9, 11; Беларускі архіў (БА). Мн., 1927—28. Т. 1—2; Историко-юридические материалы, извлеченные из актовых книг губерний Витебской и Могилевской. Витебск, 1890—91. Вып. 20—21]. Значна меней (у параўнанні з нявыдадзенымі крыніцамі) апублікавана актаў і грамат 16 ст. [асн. збор неапублікаваных крыніц гэтага роду зберагаецца ў кнігах *Метрыкі Вялікага княства Літоўскага* (Центральный государственный архив древних актов (ЦГАДА), ф. 389, оп. 1, ед. хр. 2, 6—53, книги записей, 224—271, судных дел); Хорошкевич А. Л. К истории издания и изучения Литовской метрики // Acta Baltico-Slavica. Białystok, 1973. T. 8; Методические рекомендации по изданию и описанию Литовской метрики / Сост. А. Л. Хорошкевич, С. М. Каштанов. Вильнюс, 1985; Grimsted P. K. The «Lithuanian Metrica» in Moscow and Warsaw. Cambridge, Mass. 1984; Яе ж. What is and what was the Lithuanian Metrica? The contents, history and organization of the chancery archives of the grand duchy of Lithuania // Harvard Ukrainian Studies September, 1982. Vol. 6, № 3].

**Заканадаўчыя дакументы.** Расшырэнне сац.-эканам. і сац.-паліт. правоў феадалаў знайшло адлюстраванне ў земскіх прывілеях, якія вызначалі асн. рысы грамадска-паліт. ладу ў Беларусі і ва ўсім ВКЛ. Яны выдаваліся ад імя вял. князя літоўскага. Першыя земскія прывілеі, на думку большасці даследчыкаў, былі выдадзены для ВКЛ у вузкім значэнні гэтага слова: Ягайлам 20.2.1387 у Вільні, Ягайлам і Вітаўтам 2.10.1413 у Гарадле (публікацыі: Działyński A. T. Zbiór praw litewskich od roku 1389 do roku 1529. Poznań, 1841. S. 1—2, 14—15; Kutrzeba S., Semkowicz W. Akta unji Polski z Litwą... S. 64—67; Белоруссия в эпоху феодализма (БЭФ). Мн., 1959. Т. 1. С. 101—102). Першы агульназемскі прывілей быў падпісаны 6.5.1434 Жыгімонтам Кейстутавічам у Троках, другі — 2.5.1447 Казімірам IV Ягелончыкам у Вільні. Наступныя агульназемскія прывілеі былі зацверджаны: 6.8.1492, Вільня; 7.12.1506, Гродна; 25.3.1522, Гродна; 18.10.1529 і 27.10.1529, Вільня; студз. 1547, Вільня; 3.11.1551, Вільня; 7.6.1563, Вільня; 1.7.1564, Бельск; 30.12.1565, Вільня; 1.7.1568, Гродна [усе агульназемскія прывілеі апублікаваны: Działyński A. T. Zbiór praw litewskich... S. 28—35 (1447/57); 58—66 (1492); Codex epistolaris saeculi XV / Ed. A. Lewicki. Kraków, 1894. T. 3, app. № 22 (1434), № 7 (1447); АЗР. Т. 1. № 61 (1457); Codex diplomaticus Poloniae... Varsoviae, 1847. T. 1. P. 333—337 (1447), 345—352 (1492); Archiwum Komisyi Prawniczej. Kraków, 1901. T. 7. S. 261—300 (1522, 1529, 1547, 1554, 1563); АЗР. Т. 3, № 32 (1563), № 38 (1565); Любавский М. К. Литовско-русский сейм. М., 1900, прил. № 48 (1564); Акты ЮЗР. Т. 1, прил. с. 158—164 (1568)].

Дзярж.-прававое становішча земляў Беларусі вызначалі абл. прывілеі, першапачатковыя тэксты якіх не захаваліся. Паводле даследаванняў М. Ясінскага і І. Якубоўскага, самыя стараж. абласныя прывілеі атрымалі Полацкая і Віцебская землі ў 14 ст. (Ясинский М. Уставные земские грамоты Литовско-Русского государства. Киев, 1889; Якубовский И. Земские привилеи Великого княжества Литовского // ЖМНП. 1903, № 4, 6). Вядомы пацвярджальныя граматы гэтым землям, выдадзеныя ў 1511, 1547 і 1503, 1509, 1561, а таксама Мсціслаўскаму княству ў 1511 (ЦГАДА, ф. 389, кн. зап. № 5, 25, 31, 41, 50. Публікацыі: Любавский М. К. Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно. 2 изд. М., 1915, прил., с. 365—401, № 1—10; Działyński A. T. Zbiór praw... S. 82—91, 118—121; АЗР. Т. 2, № 70). Развіццё феад. грамадства, абвастрэнне сац.-класавых супярэчнасцей у 2-й пал. 15—1-й трэці 16 ст. выклікалі неабходнасць у агульнадзярж. кадыфікацыі права. У 1468 быў зацверджаны кароткі збор законаў, вядомы ў гістарыяграфіі як «Судзебнік Казіміра» (гл. *Судзебнік 1468*). Арыгінал яго не знойдзены, захаваліся 3 спісы канца 15 — пач. 16 ст., прааналізаваныя І. П. Старасцінай. Судзебнік Казіміра рэгуляваў гал. чынам крымінальнае права. Спрэчным з'яўляецца пытанне аб яго тэрытарыяльным прызначэнні — ВКЛ у вузкім абазначэнні або ўся дзяржава. Кадыфікацыя асн. норм феад. права ў агульнадзярж. маштабе была ажыццёўлена ў ВКЛ толькі ў 16 ст. Статуты ВКЛ 1529, 1566, 1588 шматразова перавыдаваліся (Асноўныя выданні Статута 1529; Działyński A. T. Zbiór praw...; Временник Москов. о-ва истории и древностей российских (МОИДР). 1854. Кн. 18; Статут Великого княжества Литовского 1529... Мн., 1960. Асноўнае выданне Статута 1566: Вре-

меннік МОИДР. 1855. Кн. 23; Archiwum Komisyi Prawniczej... Т. 7. Навуковае выданне Статута 1588 г. разам з манаграфічным даследаваннем: Лаппо И. И. Литовский Статут 1588 г. Каунас, 1934—38. Т. 1—2; Статут Вялікага княства Літоўскага 1588: Тэксты. Давед. Камент. Мн., 1989), ім прысвечана вял. гістарыяграфія, сістэматызаваная ў апошнія гады ў працах У. І. Пічэты, С. І. Лазуткі, Ю. Бардаха, Е. С. Гудавічуса, В. А. Раўдзелюнаса, І. А. Юхо (Пичета В. И. Белоруссия и Литва XV—XVI вв. М., 1961. С. 487—524; Лазутка С. А. I Литовский статут — феодальный кодекс Великого княжества Литовского. Вильнюс, 1974; Bardach J. Statuty Wielkiego Księstwa Litewskiego — pomniki prawa doby Odrodzenia // Kwartalnik Historyczny. 1974. № 4; Юхо И. А. Правовое положение населения Белоруссии...; Яго ж. Крыніцы беларуска-літоўскага права. Мн., 1991; Яго ж. Кароткі нарыс гісторыі дзяржавы і права Беларусі. Мн., 1992). Спісы Статутаў 1529, 1566 вывучалі С. Барысенак, П. Ф. Крапівін, Ю. І. Чарнецкая, Гудавічус, Раўдзелюнас, А. В. Васіляўскене і інш. Сучаснае навуковае выданне Статута 1529 разам з манаграфічным даследаваннем ажыццяўляюць літ. гісторыкі (Первый Литовский Статут: Палеогр. и текстол. анализ списков / Сост. С. Лазутка, Е. Гудавичюс. Вильнюс, 1983. Т. 1, ч. 1. Усе выданне разлічана на 5 т).

Важнай крыніцай для вывучэння сац.-паліт. і сац.-эканам. адносін у Беларусі і ВКЛ у цэлым з'яўляюцца дакументы вальных соймаў 15—16 ст., якія заканадаўча замацоўвалі прывілеі і правы феадалаў ва ўсіх асн. сферах сац.-эканам. і паліт. жыцця дзяржавы (большая частка іх апублікавана: РИБ. Т. 30; Документы Московского архива Мин-ва юстиции (ДМАМЮ). 1897. Т. 1; Любавский М. К. Литовско-русский сейм. М., 1900, прил. с. 1—232; Максимейко Н. А. Сеймы Литовско-Русского государства до Люблинской унии 1569. Харьков, 1902, прил. с. 1—205). Амаль не захаваліся матэрыялы павятовых соймікаў за першыя гады іх дзейнасці (утвораны ў 1565).

**Матэрыялы бягучага справаводства.** У велікакняжацкай канцылярыі ў Вільні, якая была асн. цэнтрам дзярж. справаводства, у 2-й пал. 15—1-й чвэрці 16 ст. вяліся кнігі «данін», «судовых спраў», арэнд, пасольстваў і «даканчанняў», «адпраў» і расходаў на татар (Бережков Н. Г. Литовская метрика как исторический источник. М.; Л., 1946. С. 140—148). У кнігі данін запісваліся велікакняжацкія даравальныя граматы на зямельныя ўладанні на Беларусі, імунітэтныя правы, дзярж. паса-

Карта **Вялікага княства Літоўскага** (фрагмент) Гравер Т Макоўскі 1613

Міхалона Літвіна «Аб норавах татар, літоўцаў і масквіцян» (Mykolas Lietuvis. Apie totorių, lietuvių ir maksvėnų papročius Vilnius, 1966), у якіх рэзка крытыкаваліся судовая сістэма ВКЛ, хабарніцтва «ўраднікаў», усемагутнасць і самавольства феад знаці. Паліт. гісторыі Беларусі, як і ўсяго ВКЛ, аддавалі ўвагу таксама польскія гісторыкі 15—16 ст. Маюцца на ўвазе перш за ўсе асноўная праца Я. Длугаша «Гісторыя Польшчы», складзеная ў 1455—80, хронікі 16 ст Ю. Дэцыя, Б. Вапоўскага, М. Кромера, М. Бельскага, гіст. творы М. Мяхоўскага, А. Гваньіні. Асаблівае значэнне мае «Хроніка польская, літоўская, жамойцкая і ўсяе Русі» М Стрыйкоўскага («Ktora przed tym nigdy światła nie widziała Kronika Polska, Litewska, Zmodzka i Wszystkiej Rusi. Królewiec, 1582), які выкарыстоўваў многія мясцовыя крыніцы, у т. л. не дайшоўшыя да нас бел.-літоўскія летапісы, рукапісы і дакументальныя матэрыялы з архіваў Ходкевічаў, Слуцкіх, Гедройцаў [Рогов А. И. Русско-польские культурные связи в эпоху Возрождения (Стрыйковский и его Хроника). М., 1966, Улащик Н. Н Введение в изучение.. С. 82—129; Wojtkowiak Z. Maciej Stryjkowski — dziejopis Wielkiego Księstwa Litewskiego Kalendarium zycia i działalnosci Poznan, 1990] Ордэнскія хронікі 13—14 ст. асвятляюць гісторыю Тэўтонскага і Прускага ордэнаў у Прыбалтыцы, іх наступленне на землі Літвы, Паўночна-Усх Русі, Беларусі Хроніка Лівоніі Генрыха Латвійскага, каля 1225, Старэйшая Лівонская рыфмаваная хроніка 13 ст, Хроніка Пятра Дусбурга, 1326; Лівонская хроніка Германа з Вартберга, даведзеная да 1378; Рыфмаваная хроніка Віганда з Марбурга, канец 14 ст (Большасць ордэнскіх хронік выдадзена ў серыях Scriptores Rerum Prussicarum. Leipzig, 1861—74. Bd. 1—5; Scriptores Rerum Livonicarum Riga; Leipzig, 1848—54. Bd. 1—2, Monumenta Livoniae antiquae Riga etc., 1835—47 Bd 1—5) Гісторыя Полацкага паходу 1563 і інш падзеі пачатковага этапу Лівонскай вайны 1558—83 асветлены ў рус. летапісах, замежных «лятучых» выданнях, нямецкіх хроніках [Гл. Зутис Я. Очерки по историографии Латвии Ч. 1. Прибалтийско-немецкая историография. Рига 1949; Vahtre S. Kroniki bałtyckie (inflanckie) XIII—XVIII w. jako zródła historyczne (Stan badań) // Zapiski Historyczne. 1969. Z. 4] Фрагментарны матэрыял пра Беларусь (пераважна паліт, гіст.-геагр., бытавыя звесткі) сустракаецца ў розных творах іншаземцаў — паслоў, дыпламатаў, гісторыкаў, пісьменнікаў 15—16 ст. П. Сухенвірта, Л. Халкакандзіла, Э Пікаламіні, З Герберштэйна, А Шротэра і інш. [Грыцкевіч В Вачыма даўніх падарожнікаў // Маладосць. 1969. № 2, Maliszewski E Bibljografja pamiętników polskich i Polski dotyczących (Druki i rękopisy) Warszawa, 1928, Gudzoziemcy o Polsce / Wybr J. Gintel. Krakow, 1971 T 1] У літ.-дакументальных апісаннях польскіх вальных соймаў (Варшаўскага 1563 і асабліва Люблінскага 1569) ёсць звесткі пра паліт. дзейнасць буйных феадалаў Беларусі і Літвы, якія прапаноўвалі свае планы паліт. саюза з Польшчай (Спісы апублікаваных і рукапісных «дыярыушаў» соймаў гл. Konopczyński W. Chronologia sejmów polskich 1493—1793. Kraków, 1948; Finkel L Bibliografia historii polskiej Warszawa, 1955. T. 1; Дневник Люблинского сейма 1569. Спб., 1869). Параўнальна невял. групу крыніц складае перапіска вял. князёў літ. з магнатамі Беларусі, Літвы, Украіны (Радзівіламі, Сапегамі, Ходкевічамі), карэспандэнцыя паноў-рады, гаспадарскай канцылярыі, паведамленні і рэляцыі дыпламатаў і агентаў. Эпістальярная спадчына вял князёў Міндоўга, Гедзіміна, Вітаўта даследавана ў разнастайных працах польскіх, літоўскіх, савецкіх гісторыкаў і амаль поўнасцю выдадзена (Gediminо laiškai / Par. V. Pašuta ir J Stal Vilnius, 1966; Kosman M. Dokumenty łacińskie wielkiego księcia Witolda // Archeion. 1969 R. 51; Prochaska A Codex epistolaris Vitoldi. Krakow, 1882, Ochmański J. Vitoldiana Codex privilegiorum Vitoldi.. Warszawa, Poznan, 1986) Перапіска вял. князёў літ. сярэдзіны 15—16 ст увайшла ў розныя зборнікі паліт.-дыпламатычнага зместу (Памятники дипломатических сношений Московского государства с Польско-Литовским. Т. 1—3, Acta Tomiciana. Poznaniae etc., 1852—1966. T. 1—17, Akta Aleksandra. Kraków, 1927).

У сувязі з усталяваннем каталіцызму ў ВКЛ і перспектывамі яго далейшага распаўсюджання на Беларусі і ў інш. усх.-слав. краінах асаблівую ўвагу гэтаму рэгіёну Еўропы ў 16 ст. ўдзялялі папскія дыпламаты. Вядома некалькі выданняў, якія змяшчалі гал. чынам сакрэтную перапіску нунцыяў з рымскай курыяй (Relacye nuncyuszów apostolskich i innych osób o Polsce od roku 1548 do 1690. Berlin; Poznań, 1864. T. 1). Польскімі гісторыкамі сабрана 6 тамоў падобнага роду матэрыялаў, якія пакуль не выдадзены. Да апавядальных крыніц, асабліва важных для даследавання працэсаў развіцця бел культуры, належаць помнікі кірылаўскай пісьменнасці 14—16 ст Выдадзены толькі асобныя рукапісы свецкага або царкоўна-рэлігійнага зместу (Будовниц И. У Словарь русской, украинской, белорусской письменности и литературы до XVIII в. М., 1962, Карский Е Ф. Белорусы. Т. 3. Очерки словесности белорусского племени, вып. 2 Старая западно-русская письменность Пг., 1921; Каментарыі Ф Скарыны да яго выданняў апублікаваны А. Ф. Коршуновым — Францыск Скарына. Прадмовы і пасляслоўі Мн., 1969, у дапоўненым выданні. Францыск Скарына Творы Мн., 1990).

Пісьмовыя крыніцы далёка не раўнамерна асвятляюць розныя бакі гісторыі Беларусі Захаванасць крыніц залежыць ад многіх прычын (натуральнае старэнне, войны, пажары і г д.), але іх адбор вызначаўся гал. чынам зацікаўленасцю феадалаў, дзярж., царк устаноў, органаў гар. самакіравання ў працяглым захоўванні дакументаў параўнальна вузкага зместу Акты і граматы сац.-эканам. і сац.-паліт. характару, якія складаюць большасць усіх пісьмовых крыніц, прадстаўлены ў сучасных архівах у адносна значнай колькасці толькі з канца 15 ст., а абагульняючыя лічбавыя матэрыялы, неабходныя для статыстычнага вывучэння важных сфер сац.-эканам. і паліт. жыцця Беларусі, з'яўляюцца пераважна ў канцы 16 ст

Вельмі мала матэрыялаў, якія асвятляюць адносіны прыватнаўласніцкай адміністрацыі з залежнымі катэгорыямі насельніцтва, перш за ўсе — сялянствам, дадзеных пра іх становішча, па гісторыі антыфеад. рухаў 13—16 ст. Зусім не захаваліся (акрамя асобных фрагментаў) мытныя, гандлёвыя, цэхавыя кнігі таго часу Абмежаваная таксама колькасць літ.-пісьмовых помнікаў 13—16 ст., неабходных для даследавання гісторыі бел культуры, працэсу кансалідацыі і развіцця бел народнасці. Амаль адсутнічаюць пісьмовыя крыніцы па гісторыі духоўнай культуры «паспалітага» (простага) насельніцтва Беларусі, фальклору, ерасей. У рознай ступені (аб'ёме і відавой структуры) прадстаўлены крыніцы па гісторыі асобных зямель Беларусі. Больш поўна асветлена імі ўнутрыпаліт жыццё ўсх зямель, у той час як матэрыялы па сац.-эканам. пытаннях лепш захаваліся па зах. землях Беларусі. Поўная або амаль поўная адсутнасць многіх пісьмовых крыніц 13—15 ст не дае магчымасці ў дастатковай меры асвятліць удзел нар. мас у грамадска-паліт. і інш. сац. рухах, вызначыць удзельную вагу і суадносіны асн форм зямельнай уласнасці, развіццё сац.-класавай структуры, колькасць насельніцтва, эвалюцыю грамадскай свядомасці, зрухі ў многіх галінах земляробства і рамесніцкай вытворчасці, матэрыяльнай культуры і г. д. Выкарыстанне іншых (археал., фальклорных, этнагр) матэрыялаў далёка не заўсёды кампенсуе адсутнасць пісьмовых крыніц У цэлым крыніцы, што захаваліся, дазваляюць даць канкрэтна гіст ўяўленне пра многія аспекты грамадска-паліт і царк.-рэліг жыцця бел зямель з 13—14 ст., сац.-эканам. і культурнага — у асн. з 2-й пал — канца 15 ст.

**Гістарычныя крыніцы канца 16—18 ст.** адрозніваюцца ад папярэдняга перыяду тэматычнай і відавой разнастайнасцю, большай рэпрэзентатыўнасцю і інфарматыўнасцю, паступовым распаўсюджаннем (пераважна ў сац.-эканам. і падатковых сферах гаспадаркі) статыстычных матэрыялаў Большасць дакументальных і нaратыўных крыніц 17—18 ст. напісана на польск мове, якая ў справаводстве была замацавана пастановай Варшаўскага сойма 1696, некаторыя — на бел., лац. і інш мовах. У параўнанні з архіўнымі фондамі апублікавана нязначная частка крыніц, гал. чынам у серыйных археагр

і шматтомных публікацыях матэрыялаў з прыватных магнацкіх збораў. Утварэнне Рэчы Паспалітай унесла прыкметныя змены ў паліт. жыццё ВКЛ. Асн. крыніцамі заканадаўства побач з рашэннямі вярх. улады сталі пастановы агульных соймаў і дагаворы шляхты з манархамі («пакта канвента»), у якіх вызначаліся гал. прынцыпы паліт. ладу Рэчы Паспалітай, гарантыі правоў прывілеяваных саслоўяў, паўнамоцтвы каралёў і вял. князёў літоўскіх. Гал. заканад. акты Рэчы Паспалітай у дачыненні да ВКЛ дапаўнялі і ўскладнялі прававую сістэму, што дзейнічала на аснове Статута ВКЛ 1588 (акрамя кірыліцкіх выданняў Статута 1588, вядомы пазнейшыя выданні на польскай мове з дапаўненнямі 1614, 1619, 1648, 1698, 1786), іншых юрыд. крыніц і звычаёвага права (Kutrzeba S. Historja źródeł dawnego prawa polskiego. Lwów etc., 1926. T. 2. Sawicki S. An historical conspectus of the sources of Byelorussian law // The Journal of Byelorussian Studies. London, 1967. Vol. 1, № 3; Bardach J., Ochmański J., Backus O. Introduction bibliographique à l'histoire de droit et à l'ethnologie juridique publiée sous la direction de John Gilissen D/14 Lituanie... 1969. Université Libre de Bruxelles; Юхо І. Крыніцы беларуска-літоўскага права. Мн., 1991). На агульных соймах вырашаліся справы ўсёй Рэчы Паспалітай (а таксама Польшчы, ВКЛ, асобных зямель, рэгіёнаў) пераважна паліт. і сац.-эканам. зместу: аб арганізацыі і ўтрыманні войска, павіннасцях і правах розных пластоў насельніцтва, зменах у адм. структуры, судовым ладзе, мясцовых органах кіравання, падатках, гандлі, мытнай службе і знешнепаліт. адносінах, пасольствах, дзярж. межах і інш. (Публікацыі і літ. гл.: Konopczyński W. Chronologia sejmów polskich...; Radwański Z. Uzupełnienie do chronologii sejmów polskich // Czasopismo prawno-historyczne. 1949. T. 2). Соймавыя пастановы — «ухвалы», канстытуцыі з 17 ст. дапаўняліся падатковымі універсаламі. З 1576 соймавыя канстытуцыі і інш. дакументы вальных соймаў рэгулярна выдаваліся ў розных каронных і вялікакняжацкіх друкарнях (Ковальский Н. П. Источниковедение истории Украины... 1978. С. 13—17). Справы, якія датычыліся ВКЛ, змяшчаліся ў т. зв. «літоўскіх» канстытуцыях. Соймавыя канстытуцыі і асн. заканадаўчыя акты Польшчы, ВКЛ, Рэчы Паспалітай увайшлі ў шматтомнае прыватнае (неафіцыйнае) выданне «Валюміна легум» (Звод законаў), да якога пазней былі далучаны прадметна-тэматычныя дапаможнікі — «інвентары правоў, статутаў, канстытуцый...» [«Інвентар» 1630 ахопліваў 1550—1628, наступныя выданні дапаўняліся матэрыяламі «Валюміна легум» па 1643, 1683, 1726. Гл. таксама: Trembicki A. Prawo polityczne i cywilne Korony Polskiej i Wielkiego Księstwa Litewskiego, to iest Nowy zbor praw oboyga narodów od roku 1347 aż do teraznieyszych czasów. Warszawa, 1789—91. T. 1—2; Апублікавана нязначная частка матэрыялаў, пераважна ў серыйных выданнях — АВАК. Т. 2—4, 8; Историко-юридические материалы, извлеченные из актовых книг губерний Витебской и Могилевской (ИЮМ). Т. 10; Scriptores Rerum Polonicarum. T. 20; Archiwum domu Sapiehów]. Значную цікавасць маюць таксама матэрыялы з'ездаў шляхты ВКЛ, павятовых соймікаў, дзе абмяркоўваліся інструкцыі мясцовым пасланнікам на вальныя соймы, даводзіліся да ведама шляхты прынятыя пастановы. Дакументы вальных соймаў дапаўняліся «дыярыушамі», белетрызаванымі хронікамі, апісаннямі соймавых падзей, прамоў, закулісных паліт. інтрыг і інш. [Публікацыі: Scriptores Rerum Polonicarum. T. 1, дыярыушы каронных соймаў 1548, 1553, 1570 (Кракаў, 1872); т. 2, дыярыушы сойма 1587 (1887); т. 20, сойм 1597 (1907); т. 21, соймы 1591—92 (1911); Dyaryusze sejmowe z wieku XVIII... Warszawa, 1911—37. T. 1—3]. Асн. прынцыпы прававой сістэмы Рэчы Паспалітай былі ўдакладнены і замацаваны ў законе «Кардынальныя правы», прынятым на сойме 1768. У 1791 у выніку вострай паліт. барацьбы патрыятычна-рэфарматарскімі слаямі Рэчы Паспалітай была ўхвалена Канстытуцыя 3 мая, якая радыкальна змяніла структуру вышэйшых органаў улады, садзейнічала цэнтралізацыі і уніфікацыі дзяржавы, уводзіла пэўныя парламенцкія прынцыпы (Volumina Legum. 2 wyd. T. 9). Комплекснага выяўлення і вывучэння патрабуюць матэрыялы па знешнепаліт. гісторыі ВКЛ. Агульная палітыка Рэчы Паспалітай і ВКЛ спалучалася з пэўным размежаваннем знешнепаліт. дзейнасці ў адносінах да іх бліжэйшых суседзяў. У канцы 16—18 ст. значна пашырыліся паліт. сувязі Польшчы і ВКЛ з некаторымі зах. і цэнтральна-еўрап. краінамі, рознымі дзярж. кааліцыямі (Barycz H. Polska za pierwszych królów elekcyjnych 1572—1586. W swietle źródeł. Kraków, 1928; Dogiel M. Codex diplomaticus Regni Poloniae et Magni Ducatus Lithuaniae... T. 1, 5, 6; Traktaty między mocarstwami europejskimi od roku 1648 zaszłe podług lat porządku opis. przez F. Siarczyńskiego. 1773—1790. T. 1—6; Traktaty, konwencye handlowe y graniczne, wszelkie publiczne umowy między Rzeczpospolitą Polską y obcemi państwami od roku 1761 dotąd, to iest do r. 1791 / Wyd. F. Siarczyński. Warszawa, 1791. T. 1—2; Konopczyński W. Traktaty międzynarodowe dawnej Rzeczypospolitej // Przegląd Dyplomatyczny. Warszawa, 1920. № 1—2). Асн. паліт. контрагентам Рэчы Паспалітай і ВКЛ у канцы 16—18 ст. была Расія, адносіны з якой нярэдка ўскладняліся зацяжнымі войнамі, спробамі заручыцца падтрымкай інш. дзяржаў, укр. казацтва, а ў пазнейшыя часы і розных магнацка-шляхецкіх канфедэрацый [Акты исторические (АИ). Спб., 1841—42. Т. 1—5; АВАК. Вильна, 1909. Т. 34; АЗР. Спб., 1848—53. Т. 3—5; Акты ЮЗР. Спб., 1863—92. Т. 1—15; АС. Спб., 1867—1904. Т. 3—4, 7, 14; Архив ЮЗР. Киев, 1859—1914. Ч. 1—3; Сб. РИО. 1892, 1912, 1913. Т. 71, 137, 142; Собрание гос. грамот и договоров, хранящихся в Гос. коллегии ин. дел. М., 1813—28. Ч. 1—4; Памятники дипломатических сношений древней России с державами иностранными. Спб., 1854. Т. 3; Historica Russiae Monumenta... / ab A. I. Turgenevio. Petropoli, 1841—48. T. 1—3; Бантыш-Каменский Н. Н. Переписка между Россией и Польшей по 1700 г., составленная по дипломатическим бумагам // Чтения в О-ве истории и древностей российских (ЧОИДР). 1861—62; Документы, объясняющие историю Западно-русского края и его отношения к России и к Польше. Спб., 1865; Polska a Moskwa w pierwszej połowie wieku XVII. Zbiór materiałów... Lwów, 1901; Описание документов и бумаг, хранящихся в Московском архиве Министерства юстиции. М., 1869—1915. Кн. 1—21; Письма и бумаги императора Петра Великого. Т. 1—12. Спб.; М.; Л., 1887—1977; Русско-белорусские связи. Мн., 1963, 1972]. Адносіны ВКЛ з Польшчай, Крымам, Атаманскай Портай, Ватыканам, Швецыяй, Прускім герцагствам асвятляюцца пераважна ў археагр. дакументальных выданнях (Dogiel M. Codex diplomaticus Regni Poloniae et Magni Ducatus Lithuaniae... T. 6; Archiwum tajne Augusta II, czyli Zbiór aktów urzędowych... Wrocław, 1843. T. 1—2; Vetera monumenta Poloniae et Lithuaniae... Romae, 1864. T. 4; Acta unji Polski z Litwą, 1385—1791 / Wyd. S. Kutrzeba, W. Semkowicz. Kraków, 1932; Monumenta Poloniae Vaticana / Ed. L. Boratyński, E. Kuntze, Cz. Nanke. Cracoviae, 1915—50. T. 4—8; Elementa ad Fontium Editione. Romae, 1961—65. Vol. 3, 7, 9, 14; Dyplomaci w dawnych czasach. Relacje staropolskie z XVI—XVIII stulecia / Wyd. A. Przyboś, R. Żelewski. Kraków, 1959; Abrahamowicz Z. Katalog dokumentów tureckich: Dokumenty do dziejów Polski i krajów ościennych w latach 1455—1672. Warszawa, 1959; Die Staatsverträge des Herzogtums Preussen. Tl. 1. Polen und Litauen Verträge und Belehnungsurkunden 1525—1657(58) / Hrsg. von S. u H. Dolezel. Köln; Berlin, 1971). Недастаткова сістэматызаваны шматлікія матэрыялы па ваеннай гісторыі ВКЛ канца 16—18 ст. Адносна поўна выяўлены дакументальныя і наратыўныя крыніцы, якія прысвечаны войнам і казацка-сялянскім рухам сярэдзіны 17 ст. [Акты ЮЗР. Т. 3, 14; АВАК. Т. 34; БА. 1930. Т. 3; Сапунов А. П. Витебская старина. 1883. Т. 1; 1885. Т. 4, ч. 2; БЭФ. 1960. Т. 2; Commentarius rerum in Magno Ducatu Lithvaniae per tempus rebellionis Russicae gestarum. Regiomonti, 1653; Воссоединение Украины с Россией: Документы и материалы. М., 1953. Т. 1—3; Документы Богдана Хмельницкого, 1648—1657. Киев, 1961; Документы об освободительной войне украинского народа, 1648—1654 гг. Киев,

1965, **Акти** до Хмельниччини (1648—1657) / **Зібрав** М. Кордуба // Жерела до історії України-Руси. Львів, 1911. Т. 12, **Мыцык** Ю. А. Анализ источников по истории освободительной войны украинского народа 1648—1654 гг. Днепропетровск, 1983; Яго ж. Анализ архивных источников по истории освободительной войны украинского народа 1648—1654. Днепропетровск, 1988]. Асноўныя крыніцы па ваеннай гісторыі ВКЛ шырока выкарыстоўваюцца ў серыйным выданні Studia i materiały do historii wojskowości. Wrocław etc. (выйшла больш за 30 т.) і ў асобных ваенна-гіст. даследаваннях і публікацыях. Дакументальныя і наратыўныя крыніцы сведчаць аб значным укладзе, які зрабілі паліт. ваенныя дзеячы ВКЛ (Хадкевічы, Радзівілы, Сапегі, Пацы, Слушкі і інш.), у развіцце ваен. мастацтва, распрацоўку стратэгічных і аператыўных планаў, рэформы вайсковай справы на прафесійных асновах. Яны актыўна ўдзельнічалі ў распрацоўцы заканадаўчых актаў, міжнар. трактатаў і дагавораў. Аўтарам адной з першых рэдакцый вайсковых статутаў («артыкулаў») быў гетман ВКЛ Рыгор Хадкевіч, заснавальнік Заблудаўскай друкарні [Надрукаваны ў «Хроніцы» А. Гваньіні (Кракаў, 1611)]. Зводы вайсковых статутаў былі апублікаваны пазней: Artykuły woienne, powagą Rzeczy-Pospolitey, Krolow Polskich y Hetmanow W. X. Litt. roznymi czasy ustanowione.. Nieswież, 1755. Найбольш поўнае выданне з каментарыямі С. Кутшэбы Polskie ustawy i artykuły wojsk. od XV do XVIII w / Wyd. S. Kutrzeba. Kraków, 1937. Набліжаванай была і большасць аўтараў арыгінальных або перакладных, кампіляцыйных прац, прысвечаных ваен. паходам, дзейнасці ваявод, гетманаў ВКЛ, інш. службовых асоб [Rymsza A. Dziesięcioroczne powiesci woiennych spraw... książęcia... Krzysztofa Radziwiłła... Wilno, 1585; Radwan Jan Radivilias... Vilnae, 1588; Bojer Lars. Carolomachia, qua felix victoria... per Ioan Carolum Chodkiewicium . M. D. L generalem militiae ducem de Carolo duce Sudermanniae.. A. D. 1605 in Livonia sub Kurknolmum... Vilnae, 1606; Śląski Szymon Pamiątka albo Kolumny niesmiertelności... Janowi Carolowi Chodkiewiczowi... hetmanowi naywyzszemu Wiel. Księst. Litew [Wilno, 1606]; Kojałowicz W. De rebus anno 1648 et 1649 contra Zaporovios cosacos gestis. Vilnae, 1651], актуальным і перспектыўным сферам ваен. мастацтва, абарончага дойлідства (Siemienowicz K. Wielkiej sztuki artylerii część pierwsza. Warszawa, 1963) Працы матэматыка, картографа ВКЛ 17 ст. І. Нарановіча-Наронскага («Księga nauk matematycznych», «Traktat o fortyfikacjach» і інш.) засталіся ў рукапісах. У перакладзе К. Нарбута ў Вільні ў 1771 была надрукавана «Nauka żołnierska króla pruskiego dla jego generałów dana...». Поруч з асноўнымі дзярж. дакументамі, эдыктамі, канстытуцыямі, універсаламі, соймавымі пастановамі значную групу крыніц складалі акты, якія рэгламентавалі дзейнасць афіцыйных устаноў, органаў гар. самакіравання, «врадніkaў» — канцлераў, гетманаў, ваявод, падскарбіяў і інш. Большасць дакументальных крыніц 17—18 ст. асвятляе розныя аспекты сац.-эканам гісторыі ВКЛ, эвалюцыю сац.-класавай структуры, сац. адносін, становішча розных пластоў насельніцтва (Копысский З. Ю. Источниковедение аграрной истории Белоруссии. Мн., 1978; Мелешко В. И Источники по социально-экономическому положению крестьян Белоруссии во второй половине XVII—XVIII вв // Acta Baltico-Slavica. Wrocław etc., 1979. Т 12; Lietuvos valstiečių ir miestelenų gincai su dvarų valdytojais / Sudarė K. Jablonskis Vilnius, 1959—61. D. 1—2) Ледзьве закраиуты даследаваннямі разнастайныя надзвычай аб'емныя матэрыялы земскіх, гродскіх, каптуровых, падкаморскіх, камісарскіх, магдэбургскіх і інш. судовых інстанцый 17—18 ст. (гл. Центральный гос ист. архив БССР в Минске. Путеводитель. Мн., 1974. С. 9—22), а таксама звычайныя сац.-эканам. дакументы бягучага справаводства: эканам. інструкцыі, уставы дзяржаўцам, адміністратарам маенткаў, інвентары, люстрацыі, вопісы эканомій, царк. уладанняў, лакацыйныя і гандлевыя прывілеі, чалабітныя сялян, мяшчан, шляхты, тастаменты і інш. (Козловский П. Г., Чепко В. В. Инвентари и хозяйственные документы магнатских владений Белоруссии XVI—XVIII вв. и инвентари помещичьих имений первой половины XIX в. как исторический источник // Ежегодник по аграрной истории Восточной Европы, 1962. Мн., 1964; Инвентари магнатских владений Белоруссии XVII—XVIII вв. Владение Сморгонь / Сост. П. Г. Козловский, Е. П. Шлоссберг, Е. Л. Бравер Мн., 1977; Инвентари магнатских владений... Тимковичи. Мн., 1982; Lietuvos inventoriai XVII a / Sudarė K. Jablonskis, M. Jučas. Vilnius, 1962; Голубев В. Ф. Источники по землевладению и землепользованию крестьян Белоруссии в XVI—XVIII вв. // Весці АН БССР. Сер. гуманіт. навук. 1987. № 6; Abramavičius V. Feodalinių žemės valdų Lietuvoje inventorių aprašymas. Vilnius, 1963) З канца 16—17 ст. дайшлі да нас першыя каралеўскія і велікакняжацкія прывілеі на т. зв. ардынацыі, асобныя скарбавыя, цэхавыя, мытныя, магістрацкія, прыходна-расходныя і інш. кнігі або адпаведныя комплексы дакументаў (Ординация королевских пущ в лесничествах бывшего Великого княжества Литовского. Вильна, 1871, Писцовая книга Гродненской экономии... Вильна, 1882. Ч. 2; Лаппо И. И. Описание Полоцких владычних, монастырских и церковных земель ревизорами 1580 г. М., 1907; Rachunki podskarbstwa litewskiego 1648—1652. Wilno, 1855). У 17—18 ст з'явіліся першыя друкаваныя апісанні дваровай гаспадаркі, рамесстваў, промыслаў (Opisanie gospodarstwa pszczołowego na Szczorsach sporządzone roku 1785. Warszawa, 1785; Rundstein J. Cztery księgi bartne nowogrodzkie z XVII-go i XVIII-go wieku, Warszawa, 1928).

Буйнейшым мерапрыемствам сац.-эканам. палітыкі ВКЛ сталі рэестры падымнага падатку («тарыфы»), уведзенага ў дзярж. практыку згодна з пастановай Варшаўскага сойма 1649 з сярэдзіны 17 ст. Рэестры падымнага — важныя крыніцы для вызначэння структуры зямельнай уласнасці, гіст.-дэмаграфічных, сац.-эканам., геаграфічных, генеалагічных і інш. даследаванняў — апублікаваны толькі часткова (Lulewicz H., Sienkiewicz W Rejestry podatkowe Wielkiego Księstwa Litewskiego z lat 1637—1717 // Przegląd Historyczny. 1981. Z. 1; Morzy J. Kryzys demograficzny na Litwie i Białorusi w II połowie XVII wieku. Poznań, 1965; Wykaz podatku podymnego powiatu Wołkowyskiego z r. 1690 / Wyd. S. Krakowski. Wilno, 1939; Metryka Litewska Rejestry podymnego Wielkiego Księstwa Litewskiego. Województwo Wileńskie 1690 r. / Oprac. A. Rachuba. Warszawa, 1989), пераважна ў рукапісах вядомы «тарыфы» 18 ст. Уключалі спісы зямельных уладанняў, гар. населеных пунктаў з азначэннем колькасці двароў (дымоў) і памераў дзярж падатку. У 1790 быў складзены тарыф ВКЛ, які абагульняў звесткі павятовых рэестраў (характарыстыку тарыфаў 18 ст. гл. Козловский П. Г. Землевладение и землепользование в Белоруссии в XVIII — первой половине XIX в. Мн., 1982. С. 53—59; Труска Л. С. Переписи дымов конца XVIII века в Литве // Материалы межресп. науч. конф. по источниковедению и историографии народов прибалтийских республик Союза ССР· Источниковедение. Вильнюс, 1978; Jasas R., Truska L. Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystės gyventojų surašymas 1790 m. Vilnius, 1972). Матэрыялы 5-й расійскай рэвізіі сярэдзіны 18 ст. і 1790-х гадоў, якія ўпершыню ахапілі Літву і Беларусь, у спалучэнні з тарыфамі падымнага дазваляюць даследаваць дэмаграфічную сітуацыю, колькасць насельніцтва (па ваяводствах і паветах), палавую і сац. структуры сялянства і інш. [Королева Е. Г. Численность и структура сельского населения Белоруссии в конце XVIII — первой половине XIX в. // Сельское хозяйство и крестьянство Беларуси Мн, 1991; Кабузан В. М. Народы России в XVIII в.. Численность и этнич. состав. М., 1990, Асноўная частка матэрыялаў рэвізій захоўваецца ў фондах Сената (Спб.)]. Не менш значным комплексам рэпрэзентатыўных сац.-эканам. дакументаў з'яўляюцца і матэрыялы Генеральнага межавання, ажыццеўленага ўрадам Расійскай імперыі ў апошняй чвэрці 18—1-й пал. 19 ст. Асноўнымі мэтамі яго былі афармленне і замацаванне феад. землеўладання, землеўпарадкавання, што патрабавала генеральнага вымярэння і картаграфавання. Да

генеральных планаў і атласаў дадаваліся «Эканамічныя заўвагі» з фізіка-геагр і эканам. апісаннем маенткаў, угоддзяў, вызначэннем падаткаў, промыслаў, межаў «дач» і інш. (Цветков М. А. Картографические материалы Генерального межевания // Вопр. географии. 1953. Сб 31; Анішчанка Я. К. Генеральнае межаванне Полацкага і .Магілеўскага намесніцтваў // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1990. № 6). Становішча дзярж. вёскі асвятляецца ў матэрыялах «Камеральнай Беларускіх губерняў камісіі» 1773—74 [Анішчанка Я. К. Камеральнае апісанне — крыніца па сацыяльна-эканамічнай гісторыі Усходняй Беларусі (1772—1774 гг.) // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1988. № 3; Яго ж. Першыя мерапрыемствы царскага ўрада ў адносінах да дзяржаўнага сялянства Беларусі (1772—1776 гг.) // Там жа. 1991. № 3]. Часткова сістэматызаваны і апублікаваны прывілеі на магдэбургскае права, дадзеныя гаспадарскім і прыватнаўласніцкім гарадам і мястэчкам Беларусі і Літвы ў канцы 16—18 ст., некаторыя гарадскія «вількеры» (судзебнікі) (БЭФ Т. 1; Собрание древних грамот и актов городов· Вильны, Ковна, Трок... Вильна, 1843. Ч. 1; АВАК Т. 4—6, 8; АЗР. Т 3—4; Описание рукописного отделения Виленской публичной библиотеки. Вильна, 1898. Вып. 3; Акты ЮЗР. Т. I і інш. серыйныя выданні, Грицкевич А П. Частновладельческие города Белоруссии в XVI—XVIII вв. Мн, 1975; Rimša E 1791—1792 m. Lietuvos miestų savivaldos privilegijos kaip heraldikos šaltinis // Lietuvos miestų istorijos šaltiniaė. Vilnius, 1988; Lietuvos magdeburginių miestų privilegijos ir aktai Tomškis Jurbarkas / Sudare A. Tyla. Vilnius, 1991). Разнародныя крыніцы асвятляюць іншыя аспекты ўнутранай палітыкі ВКЛ, Рэчы Паспалітай на розных этапах іх складанай гісторыі, у т. л. народныя выступленні, «бунты» з сац, грамадска-паліт або рэліг. афарбоўкай (Агляд крыніц гл. Мелешко В. И. Классовая борьба в белорусской деревне во второй половине XVII—XVIII в. Мн., 1982; Мыцык Ю. А Анализ архивных источников..., Публікацыі: БЭФ. Т. 1—2; Беларускі архіў. Мн., 1927 Т. 1; Акты ЮЗР. Т. 10; ИЮМ. Вып. 8—9, 17, Скрутень Й. Relacya o zamordowaniu bł. Jozafata // Зап. чина св. Василия Великого. Львів, 1930. Т. 3, Josaphat-Hieromartyr. Documenta Romana Beatificationis et Canonizationis. Romae, 1952—67. Vol. 1—3), шляхецкія і магнацкія суполкі, канфедэрацыі (Zbior mow i pism niektorych w czasie seymu stanow skonfederowanych Roku 1788 [б. г.]; Rembowski A. Rokosz Zebrzydowskiego Materiały historyczne Warszawa, 1893, «Spisek orleański» w latach 1626—1628 / Oprac. U. Augustyniak, W. Sokołowski. Warszawa, 1990), нац.-дэмакратычныя, нац.-вызваленчыя рухі, абумоўленыя ўнутранымі патрэбамі і знешняй пагрозай, а ў канцы 18 ст. падзеламі Рэчы Паспалітай [Opis władz narodowych w czasie powstania... Warszawa, 1794, [Kościuszko T.] Zbiór uniwersalów i urządzeń.. Warszawa, 1794, [Kościuszko T.] Tadeusz Kościuszko Jego odezwy i raporta. Uzupełnione celniejszemi aktami odnoszącemi się do powstania narodowego 1794. Krakow, 1918; Pisma Tadeusza Kościuszki / Wyd. H. Mościcki. Warszawa, 1947; Akty powstania Kościuszki. Kraków; Wrocław, 1918—55. T. 1—3; Niemcewicz J. U Pamiętniki czasow moich. Warszawa, 1957; Архив государственного Совета. Т. 1. Совет в царствование имп. Екатерины II-й (1768—1796 гг.). Спб., 1869; Панин В. Н. Бумаги, касающиеся первого раздела Польши // Рус. архив. 1872. № 1, Die erste Theilung Polens / Hrsg. von A. Beer. Wien, 1873. Bd. 1—2; Ostatnie lata panowania Stanisława Augusta: Dokumenta do historii drugiego i trzeciego podziału / Wyd W. Kalinka. Poznan, 1868; Źrodła do dziejow drugiego i trzeciego rozbioru Polski / Wyd. B. Dembiński Lwów, 1902 T 1]. З наратыўных крыніц, акрамя хронік і летапісаў, заслугоўваюць асаблівай увагі шматлікія соймавыя дыярыушы [Агляд рукапісных і выдадзеных дыярыушаў гл.: Konopczyński W. Chronologia sejmów polskich 1493—1793. Krakow, 1948; Olszewski H. Sejm Rzeczypospolitej epoki oligarchii, 1652—1763 Poznań, 1966 Публікацыі Scriptores Rerum Polonicarum. Kraków, 1872—1911. T. 1, 11, 18, 20, 21 (соймавыя дыярыушы канца 16 ст.), Dyaryusze sejmowe z wieku XVIII.. / Wyd. W Konopczyński. Warszawa, 1911—37. T 1—3], паліт. л-ра і публіцыстыка, публічныя прамовы, перапіска паліт. дзеячаў і ўраднікаў У 17—18 ст на тэр ВКЛ існавала найбольш складаная ва Усх. Еўропе канфесіянальная структура. Рэліг. адносіны адлюстроўвалі гіст традыцыі, узровень духоўнага развіцця грамадства, палітыку вярх. улады, духоўнай іерархіі, уплывы некаторых замежных дзяржаў, пазіцыю розных пластоў насельніцтва, функцыі царк арг-цый. Асн. хрысціянскімі цэрквамі ВКЛ, дзейнасць якіх асветлена многімі дакумент публікацыямі, былі праваслаўная [АВАК. Т 16, 33—34, 39; Акты ЮЗР. Т. 1—3; Архив ЮЗР. Ч. 1, т. 1, 4, 5, 6; АС. Т. 1—4, 6—14; АЗР Т. 3—7; Kulesza A. Wiara prawosławna. Wilno, 1704, Harasiewicz M. Annales ecclesiae Ruthenicae. Leopoli, 1862; Будилович А. С Перечневая опись недвижимым церковным имениям западнорусской церкви [за X—XIX вв.]. Варшава, 1882; Материалы для истории Полоцкой епархии. Ч. 1 / Сост. А. Сапунов // Витебская старина Витебск, 1888 Т 5; Голубев С Т. Материалы для истории Западно-Российской церкви (XVIII в.) // Чтения в ист. о-ве Нестора-летописца. 1895—96. Кн. 9—10; Описание документов архива западнорусских униатских митрополитов. Спб, 1897. Т. 1; Памятники православия и русской народности в Западной России в XVII—XVIII вв. Т. 1. Акты по истории заграничных монастырей Киевской епархии XVII—XVIII вв., ч. 1—3. Киев, 1905; Беднов В. А. Православная церковь в Польше и Литве (по Volumina Legum) Екатеринослав, 1908], каталіцкая [АЗР. Т. 1; АС. Т. 1—2, БЭФ Т. 1—2; ИЮМ. Т. 18—27; Витебская старина. Т. 1, 5; Социально-политическая борьба народных масс Белоруссии Конец XIV в.— 1648 г Мн., 1988. Т. 1, Literae annae Societatis Jesu (Раздзел Provincia Poloniae et Provincia Lituaniae Выданне друкавалася з 1581 штогод у розных еўрапейскіх гарадах — Рым, Фларэнцыя, Неапаль і інш.), Koiałowicz A. W. Miscellanea rerum ad statum ecclesiasticum in Magno Litvaniae Ducatu pertinentium Vilnae, 1650; [Zienkowicz M.] Synodus Diocesana Vilnensis ab... Michaele Joanne Zienkowicz... episcopo Vilnensi... Vilnae, [1744]; Rostowski S Lituanicarum Societatis Jesu Historiarum provinciarum... Vilnae, 1768, Catalogus personarum provinciae Litvanae Vilnae, 1725—74 (выйшла каля 37 выпускаў); Theiner A. Vetera Monumenta Poloniae et Lithuaniae gentiumque finitimarum historiam illustrantia... Romae, 1860—64. T. 2—4; Sawicki J. Concilia Poloniae. Źródła i studia krytyczne. T. 2 Synody diecezji wilenskiej i ich statuty Warszawa, 1948; Acta S. C. de propaganda fide ecclesiam catholicam Ucrainae et Bielarusjae spectantia. Vol. 1 / Ed A G Welykyj Romae, 1953; Litterae S C de propaganda fide ecclesiam catholicam Ucrainae et Bielarusjae spectantes. Romae, 1954. Vol. 1, Congregationes particulares ecclesiam catholicam Ucrainae et Bielarusjae spectantes. Romae, 1956. Vol. 1; Literatura antyjezuicka w Polsce, 1578—1625 / Oprac. J. Tazbir. Warszawa, 1963, Плохий С Н Папские послания как источник по истории католической экспансии на Украине в XVI—XVII вв // Историографические и источниковедческие проблемы отечественной истории. Днепропетровск, 1985], уніяцкая [АВАК. Т. 16, 18, 33, 34; АЗР. Т. 4—7, Акты ЮЗР. Т. 2—3; АС. Т 6, 9, 10, 12—14; Архив ЮЗР Ч 1, т 1, 4, 6; Ч 2, т. 1 і інш Prawa y Przywileie od Naiaśn Królów ich Mośćiów polskich y W. X. L nadane Obywatelom Korony Polskiey y W X. L. Religiey Greckiey, w iednosci z. S. Kościołem Rzymskim będącym Wilno, 1632; Susza S. Cursus vitae et certamen martyrii B. Josaphat Kuncevicii Romae, 1665; Kulczynski I Specimen Ecclesiae Ruthenicae. Romae, 1733, Ryłło Maksymilian. Antiquitates Ecclesiae Ruthenicae, Sacrae Romanae Unitae cum amplificatione Caesaris Cardinalis Baronii narrationis historiae de origine Ruthenorum et eorum conversione Supraslii, 1760; Bullae et Brevia Summorum Pontificum Sacrarum Congregationū decreta nec non Serenissimorum Poloniae Regum Diplomata, Typis Poczajoviensibus, 1767, Kulczyński J. Monologium Bazylianskie. Wilno, 1771; Коялович М. Литовская церковная уния. Т. 1. Спб., 1859; Harasiewicz M. Annales ecclesiae Ruthenicae Leopoli, 1862; Парвов П. А Папские

буллы по греко-униатскому вопросу. Спб., 1888; Описание документов архива западнорусских униатских митрополитов. Спб., 1897—1907. Т. 1—2; Kossowski A. Blaski i cienie unii kościelnej w Polsce w XVII—XVIII w. w świetle zródeł archiwalnych. Lublin, 1939; Audientiae Sanctissimi de rebus Ucrainae et Bielarusjae (1658—1850). Romae, 1963—64; Josaphat — Hieromartyr. Documenta Romana Beatificationis et Canonizationis. Romae, 1952—67. Vol. 1—3; Supplicationes ecclesiae unitae Ucrainae et Bielarusjae. Romae, 1960. Vol. 1; Documenta unionis Berestensis eiusque auctorum 1590—1600 / Ed. A. G. Welykyj. Romae, 1970; Litterae basilianorum in terris Ucrainae et Bielarusjae / Ed. A. G. Welykyj. Romae, 1979. Vol. 1—2; Epistolae metropolitarum Kioviensium catholicorum, Theodosii Rostackyj, Heraclii Lisowskyj, Georgii Kochanowicz, Josaphat Bulhak 1788—1839 / Ed. A. G. Welykyj. Romae, 1980], рэфармацыйная [Kosman M. Archiwalia do dziejów reformacji i kontrreformacji w Wielkim Księstwie Litewskim: Zarys losów i stan obecny // Archeion. Warszawa, 1971. [T.] 56; Яго ж. Archiwum Jednoty Litewskiej // Там жа. 1974. [T.] 61; Adrianus Regenvolscius [A. Węgierski]. Systema historico-chronologicum Ecclesiarum Slavonicarum per provincias varias, Praecipue, Polonicae, Russicae, Bohemicae, Prussicae, Lituanicae, Moraviae etc. Distinctarum Libris IV Trajectini ad Rhenum, 1652; Andreae Wengierscki libri quatuor slavoniae reformatae, Continens Historiam ecclesiasticam Ecclesiarum Slavonicarum. Amstelodami, 1679; Stanislaw Lubieniecki Historia Reformationis Polonicae... Freistadii, 1682; Christophor Sandius. Bibliotheca Anti-Trinitariorum, sive Catalogus Scriptorum... Freistadii, 1684; Jura et libertates dissidentium in religione christiana in Regno Poloniae et M. D. Lithuaniae / Wyd. D. Jabłonski [S. L.], 1708; Wotschke Th. Der Briefwechsel der Schweizer mit den Polen. Leipzig, 1908; Akta, to jest sprawy zboru krześciańskiego wileńskiego... 1557 // Monumenta Reformationis Polonicae et Lithuanicae. Wilno, 1913. Ser. 10, z. 1; Monumenta Reformationis Polonicae et Lithuanicae. Wilno, 1911—15. Ser. 1, z. 1; Ser 4, z. 2, Ser 6. z. 1; Ser. 10. z 1; Akta synodow róznowierczych w Polsce. T. 2 (1560—1570) / Oprac. M. Sipayłło Warszawa, 1972; Tworek S. Materiały do dziejów kalwinizmu w Wielkim Księstwie Litewskim w XVII wieku // Odrodzenie i Reformacja w Polsce. 1969. T. 14; Lietuvos publicistai valstiečių klausimu XVI a. palaigoje — XVII a. pirmojoje pusėje / Spaudai parengė I. Lukšaite. Vilnius, 1976; The Polish Brethren. Documentation of the history and thought of Unitarianizm in the Polish — Lithuanian Commonwealth and in the Diaspora, 1601—1685. Missoula, Montana, 1980]. Менш матэрыялаў захавалася па гісторыі іудаізму, мусульманства, стараверства [Bałaban M. Bibliografia historii żydów w Polsce i w krajach ościennych za lata 1900—1930. Z. 1. Warszawa, 1939; Baron S. W. A social and religious history of the Jews. New York; London, 1976. Vol. 16; Антонович А. К. Белорусские тексты, писанные арабским письмом и их графико-орфографическая система. Вильнюс, 1968; Лилеев М. И. Новые материалы для истории раскола на Ветке и в Стародубье XVII—XVIII вв. Киев, 1893; Горючко П. С. Материалы для истории раскола старообрядчества в Могилевской губернии конца XVIII и начале XIX столетий. Могилев, 1902].

Вял. пласт дакументаў і наратыўных матэрыялаў дазваляе даследаваць розныя аспекты гіст.-культурных працэсаў. У канцы 16—18 ст. на змену агульнадзярж. бел.-літ. летапісам прыйшлі больш абмежаваныя па зместу, але новыя па сваей жанравай форме, сац. тэндэнцыях мясцовыя летапісы, гар. хронікі. [Агляд гар. хронік гл.: Улащик Н. Н. Введение в изучение белорусско-литовского летописания М., 1985 С. 173—236. Публікацыі: Хроника белорусского города Могилева. Собранная и писанная А. Трубницким... продолженная его сыном М. Трубницким / Пер. Н. Гортынский. М., 1887; Записки игумена Ореста // АС. 1867, 1871. Т. 2, 5; Летопись г. Витебска... // Витебская старина. Витебск, 1883. Т. 1; Сборник летописей, относящихся к истории Южной и Западной Руси... Киев, 1888; Полное собрание русских летописей (ПСРЛ). Т. 22. Апошнія выданні Баркулабаўскага летапісу 17 ст з каментарыем· Мальцев А. Н. Баркулабовская летопись // АЕ, 1960. М., 1962; Помнікі старажытнай беларускай пісьменнасці. Мн., 1975; Вайтовіч Н. Т. Баркулабаўскі летапіс. Мн., 1977; ПСРЛ. Т. 32]. Пабольшала цікавасць да хранографаў, у якіх гісторыя слав. народаў звязвалася з сусветнай і стараж. спадчынай. У спісах і друкаваных выданнях распаўсюджваліся на Беларусі папулярныя хронікі і інш. гіст. творы вядомых гісторыкаў ВКЛ — М. Стрыйкоўскага, А. Гваньіні, пазней Ш. Старавольскага, А. Каяловіча, Я. Сцябельскага. У 17—18 ст. значна ўзрасла колькасць апісанняў падарожжаў, вандраванняў, пасольстваў, складзеных замежнымі аўтарамі. Многія з гэтых прац адлюстроўваюць погляды еўрапейцаў на паліт. гісторыю ВКЛ, Літвы, Беларусі, Рэчы Паспалітай, цікавыя сваімі фактаграфічнымі рэаліямі — апісаннямі прыроды, побыту, царк.-рэліг. адносін і інш. (Материалы к проекту полного каталога сочинений о России на всех иностранных языках изданных. Спб., 1851; Кордт В. Чужоземні подорожні по Східній Европі до 1700 р. Київ, 1926; Maliszewski E. Bibljografja pamiętników polskich i Polski dotyczących. Warszawa, 1928; Грыцкевіч В. П., Мальдзіс А. І. Шляхі вялі праз Беларусь. Мн., 1980; Jurginis J., Šidlauskas A. Kraštas ir žmonės. Vilnius, 1983; Белоруссия в печати XVII столетия: Библиогр. указ. на иностр. яз. / Сост. М. Василевская, Мн., 1985; Яе ж. Белоруссия в печати XVIII столетия... Мн., 1985). Асаблівай увагі заслугоўваюць запіскі і справаздачы дыпламатаў розных еўрапейскіх і азіяцкіх краін [Heidenstein R. Commentarium de bella Moscovitico. Cracov, 1585 (значныя матэрыялы аб Лівонскай вайне на тэр. Беларусі); Tanner B. L. Legatio Polono-Lithuanica in Moscoviam potenties Poloniae Regis ac Reipublicae mandato et consensu... Norimbergae, 1689; Левинсон Н. Р. Записки Айрманна о Прибалтике и Московии 1666—1670 гг. // Исторические записки. М., 1945. Т. 17; [Mayerberg A.]. Iter in Moschoviam Augustini Liberi Baronis de Mayerberg. 1661; Bardili J. Maximilian Emanuels Hertzogs in Würtemberg... Reisen und Campagnen durch Deutschland in Polen. Lithauen, Roth — und Weissrussland... Stuttgart, 1730], пасланні папскіх нунцыяў [Wojtyska H D Stan przygotowania do druku korespondencji nuncjuszów... // Studia Żrodłoznawcze. 1973. T. 18; Relacye nuncyuszów apostolskich i innych osób o Polsce od r 1548 do 1690. Berlin; Poznań, 1864 T. 2; I. A. Caligarii, Nuntii apostolici in Polonia epistolae et acta 1578—1581 / Ed. L. Boratyński. Cracoviae, 1915; Totoraitis J. Vilniaus vyskupų relacijos XVII ir XVIII amžiuje // Tiesos Kelias, 1936; Alberti Bolognetti, Nuntii apostolici in Polonia epstolae et acta 1581—1585 / A. L. Boratynski p. m. collecta. P. 1—3. Cracoviae, 1923—48; Relationes status diocesium in MDL / Red. P. Rabikauskas. Romae, 1978. T. 1—2; Acta Nuntiaturae Poloniae. T. 28, vol. 1. Franciscus Simonetta (1606—1612) / Wyd. W. Tygielski. Romae 1990], прыдворных і службовых асоб. Важныя паліт., царк.-рэліг., сац. зрухі, войны канца 16—18 ст., падзелы Рэчы Паспалітай прынеслі вял. колькасць мемуараў рознай гіст., інфармацыйнай і мастацкай вартасці (Sajkowski A. Nad staropolskimi pamiętnikami. Poznań, 1964; Skrzypek J. Bibliografia pamiętnikow polskich do 1964 r. Wrocław etc., 1976; Мальдзіс А. Беларусь у люстэрку мемуарнай літаратуры XVIII ст. Мн., 1982; Przyboś A. Pamiętnikarstwo polskie w czasach Jana III // Studia Historyczne. Kraków, 1985. Z. 2). Большасць гіст. мемуараў была апублікавана ў 19—20 ст., нямала засталося ў рукапісах. Сярод найб. прыкметных помнікаў, што ўзніклі на мясц. глебе, варта адзначыць «Дзеннік» Федара Еўлашоўскага, «Дыярыушы» Афанасія Філіповіча, Самуэля і Багуслава Маскевічаў, Яна Храпавіцкага, Яна Цадроўскага, Крыштофа Завішы і інш. Палітыку кіруючых колаў ВКЛ, Рэчы Паспалітай, дзейнасць канфедэрацый, прыдворнае і прыватнае жыцце, мецэнацтва, адносіны з замежжам асвятляюць каралеўскія, а таксама магнацкія дыярыушы Радзівілаў, Сапегаў, Агінскіх, Сангушак, вядомых духоўных іерархаў [Pamiętniki Albrychta Stanisława X. Radziwilla, kanclerza w litewskiego Poznań, 1839. T. 2; Pamiętniki Michała Ogińskiego o Polsce i Polakach od r. 1788 az do końca r. 1815. Poznan, 1870—73. T. 1—4; Sanguszko

Eustachy Pamiętnik 1786—1815 / Wyd. J. Szujski. Krakow, 1876; Pamiętnik kardynała Jerzego księcia Radziwiłła z lat 1556—1575 / Wyd. T. Wierzbowski. Warszawa, 1899; Сестренцевич С Дневник н переписка // Старина и новизна. 1913—17. Кн. 16, 18, 19, 21, 22, Mémoires du roi Stanislaus Auguste Poniatowski. St. Peterbourg; Léningrad, 1914—24. Т. 1—2, Radziwiłł A. S. Memoriale rerum gestarum in Polonia, 1632—1656 / Oprac. A. Przyboś, R. Żelewski. Wrocław etc., 1968—75. Т. 1—5; на літ. мове з камент. К. Авіжоніса· Avižonis K. Rinktiniai raštai. Roma, 1982. Т. 3]. У 2-й пал. 18 ст. з'яўляюцца своеасаблівыя дакументальна-мемуарныя творы, якія належалі мясцовым ураджэнцам, асветнікам, службовым асобам, прадстаўнікам польск., літ., ням., пазней і расійскай «разначыннай» інтэлігенцыі, адміністратарам. Своеасаблівым дадаткам да гіст.-мемуарнай літаратуры былі апісанні і «дзеннікі», прысвечаныя падарожжам у інш. краіны, дыпламатычным місіям, значным замежным паліт. і ваен. падзеям. У 17—18 ст. прыкметна павялічваецца колькасць арыгінальных і перакладных мастацкіх твораў, узнікаюць першыя перыядычныя выданні. Царк.-рэліг. погляды, паліт. і ідэалагічныя канцэпцыі розных сац. пластоў прасочваюцца ў канфесіянальна-палемічнай і паліт. публіцыстыцы, дзе абмяркоўваліся праблемы дзярж. ладу ВКЛ, Рэчы Паспалітай, адносіны з Польшчай, Расіяй, царк.-рэліг. уніі, знешняй пагрозы [Памятники полемической литературы в Западной Руси Спб, 1878—1903. Кн. 1—3; Архив ЮЗР. Киев, 1887. Ч. 1, т. 7; 1914. Ч. 1, т. 8; Кирилло-Мефодиевский сборник. М; Рязань. 1865—85. Вып. 1—2; Пам'ятки полемічного письменства кінця XVI і поч. XVII в. Львів, 1906. Т. 1; Памятники философской мысли Белоруссии XVII—первой половины XVIII в. Мн, 1991 Асобныя публікацыі: Andreas Volanus. De libertate politica sive civil. Cracoviae, 1572; Lasiecki A. Obrona wolności i praw Rzpltey... [S. 1.], 1625; Olizarowski A De politica hominum societate.. Dantisci, 1651; Rzewuski A. Kasztelana witebskiego o formie rządu republikańskiego myśli. Warszawa, 1790. Cz. 1—2]. Паліт. праблемы закраналіся і ў такіх выдатных помніках бел. сатыры і публіцыстыкі, як *«Прамова Мялешкі»*, *«Ліст да Абуховіча»* (Даўгяла Д. І. З беларускага пісьменства XVII стал.: Творы Цыпрыяна Камунякі «Ліст да Абуховіча» і «Прамова Мялешкі». Мн., 1927). Сярод значных новых крыніц па гісторыі асветы і адукацыі першынство належыць друкаваным падручнікам для школ, калегій, Віленскай акадэміі, слоўнікам, лексіконам, уласным навучальным творам школяроў, студэнтаў, настаўнікаў, навук. выданням (найбольш поўна ўлічаны ў бібліягр. выданнях· Estreicher K. Bibliografia Polska. Kraków, 1872—1951. Т. 1—34; Кніга Беларусі, 1517—1917; Зводны кат. Мн., 1986; Čepiene K, Petrauskiene I. Vilniaus akademijos spaustuves leidiniai 1576—1805. Vilnius, 1976, Lietuvos TSR bibliografja. Ser. A Knygoslietuvių kalba. T 1. Vilnius, 1969). Апублікаваныя і архіўныя, рукапісныя матэрыялы (гл. *Архівы, Бібліятэкі*) канца 16—18 ст., асабліва новыя масавыя і статыстычныя крыніцы, на новым рэпрэзентатыўным узроўні асвятляюць розныя сферы сац., паліт., эканам., духоўнага, царк.-рэліг. жыцця грамадства, дазваляюць навукова даследаваць гісторыю ВКЛ, Беларусі, Літвы, Рэчы Паспалітай, міжнар. кантакты і сувязі. *Г Я Галенчанка*

**Гістарыяграфія ВКЛ** прадстаўлена даволі значным кнігазборам даследаванняў, у якіх разглядаюцца пытанні дзярж.-паліт. развіцця, царк.-рэліг. працэсы, сац.-эканам. становішча, культуралагічныя праблемы. У дасавецкай айч. гістарыяграфіі разглядаліся і вывучаліся першыя два сюжэты. Эканам.-сац. праблемы як ідэалагічна больш бяспечныя сталі ў цэнтры ўвагі даследаванняў бел гісторыкаў 1920—80-х гадоў. Афіцыйная гіст. расійская школа 19 ст. разглядала гіст. развіцце ВКЛ з пункту гледжання агульнарускага адзінства. У якасці вядучай ідэі ў працах М. Устралава, М. Каяловіча, П. Бранцава, М. Пятрова, І. Малышэўскага і інш. сцвярджаецца гал роля зах.-рус зямель у стварэнні і грамадска-паліт. развіцці ВКЛ да канца 14 ст. Пасля шэрага уній з Польшчай, на думку названых гісторыкаў, «рускія» землі трапілі пад іншаземна-каталіцкі прыгнет і далейшая іх гісторыя развівалася пад знакам усепаглынальнага імкнення да аб'яднання з праваслаўнай Расіяй Пэўны адыход ад самадзяржаўна-праваслаўнай традыцыі ў трактоўцы гіст. лесу ВКЛ назіраецца ў працах прадстаўнікоў маскоўска-кіеўскай гіст. «дзяржаўнай» школы канца 19 — пач. 20 ст. (М. Любаўскі, І. Лапа, У. Пічэта, Ф. Леантовіч і інш.). Але ў сав. час у працах бел і расійскіх гісторыкаў праправаслаўна-русафільская канцэпцыя гісторыі бел. народа часоў ВКЛ запанавала ў гістарыяграфіі. Бел. землі ў складзе ВКЛ уяўляюцца імі падначаленай і эксплуатаванай літоўскай знаццю краінай (Пашута У. Ц., Флора Б. М., Харашкевіч Г. Л. Старажытнаруская спадчына і гістарычны лес усходняга славянства. М., 1982, на рус. мове), а каталіцтва сюды нічога, акрамя крыві, найцяжэйшай эксплуатацыі ды цемрашальства, не прыносіла (Я Мараш, Т. Блінова). Дыяметральна процілеглы погляд на ролю каталіцтва і ўплываў на паліт. развіцце ВКЛ заходняга яго суседа мела польская гістарыяграфія. Ад працы І. Лялевеля «Гісторыя Літвы і Русі аж да Люблінскай уніі з Польшчай 1569 г.» (Познань, 1844) паступова складвалася думка аб рашаючай і лесавызначальна-місіянерскай ролі Польшчы для эканам., дзярж.-прававога і культурнага развіцця ВКЛ з канца 14 ст (С Кутшэба, Ю Ярашэвіч, А. Галецкі і інш). Сваю ацэнку этнапаліт. зместу ВКЛ даюць прадстаўнікі гіст. навукі Літвы і Украіны, чые народы з'яўляюцца прамымі спадкаемцамі ВКЛ. Першыя лічаць свой этнас адзіным фундатарам магутнай сярэдневяковай дзяржавы і вызначальнікам яе ўнутранай і знешняй палітыкі. Прыкладна такая ацэнка характэрна для ўсей літ. гістарыяграфіі ад працы Т. Нарбута «Старажытная гісторыя літоўскага народа» (Т 1—9. Вільня 1835—41) да абагульняльнай «Гісторыі Літоўскай ССР» (Вільнюс, 1978). Украінскія сав гісторыкі згодна блаславенай з Масквы канцэпцыі цалкам падпарадкоўваюць свой этнас у 13—14 ст. «литовским князьям». На нац.-незалежніцкім грунце будуюць свае высновы бел гісторыкі, што працавалі і працуюць у гады адраджэння і ўздыму бел. нац. ідэі, ці тыя, што захоўвалі яе, знаходзячыся ў эміграцыі (М. Доўнар-Запольскі, М Ермаловіч, Я. Найдзюк, П. Урбан і інш ) З іх пункту гледжання стварэнне літоўскай сярэдневяковай дзяржавы адбывалася на сучасных бел. землях, ВКЛ з'яўляецца дзяржавай беларускай, у якой унутраная і знешняя палітыка адпавядала «ў асноўным і пераважна» інтарэсам бел. народа (Урбан П. Пра нацыянальны характар Вялікага княства Літоўскага і гістарычны тэрмін «Літва» //Запісы Беларускага ін-та навукі і мастацтва. Мюнхен, 1964. Кн 3) Больш узважана падыходзяць да ацэнкі дзяржаўнасці ВКЛ сучасныя бел. даследчыкі, якія, падкрэсліваючы яе федэралістычнасць, робяць выснову, што «ўсе народы, якія прымалі ўдзел у палітычным, эканамічным і культурным жыцці Вялікага Княства, а найперш беларускі і літоўскі, з'яўляюцца гістарычнымі спадкаемцамі гэтай дзяржавы. Таму ёсць падставы ўжываць тэрмін для вызначэння дзяржаўнасці Вялікага княства Літоўскага, Рускага, Жамойцкага Беларуска-Літоўскае гаспадарства» (Беларусь у Вялікім княстве Літоўскім. Беларусістыка. Мн, 1992 С 122) У 1920—80-я гады ў бел. гістарыяграфіі грунтоўна і пленна распрацоўваліся праблемы сац.-эканам. развіцця ВКЛ Гісторыі вялікакняжацкіх гарадоў прысвечаны даследаванні В. Дружчыца, Я. Карпачова, З. Капыскага, В. Мялешкі, А. Грыцкевіча, А. Ігнаценкі. Шматлікія праблемы аграрнай гісторыі разглядаліся ў артыкулах і манаграфіях Пічэты, К. Кернажыцкага, Ф. Забелы, Дз. Пахілевіча, Мялешкі, П. Казлоўскага, М. Спірыдонава, П. Лойкі, В. Голубева. Да гістарыяграфічных здабыткаў гэтага часу адносяцца працы па гісторыі культуры і права ВКЛ. Гэта даследаванні Я. Юхо, С. Падокшына, Г. Галенчанкі, А Мальдзіса і грунтоўная *Скарыніяна* (гл. таксама *Гістарыяграфія*) *П А Лойка*

*Літ* Гісторыя Беларускай ССР Т 1 Мн, 1972, История Литовской ССР (с древнейших времен до наших дней) Вильнюс, 1978, 450 год беларускага кнігадрукавання Мн, 1968, Первый Литовский Статут Ч 1—2 Вильнюс, 1983—85, Статут Вялікага княства Літоўскага 1588, Тэксты Давед Камент Мн, 1989, Франциск Скорина —

белорусский гуманист, просветитель, первопечатник Сб науч тр Ми, 1989, Францыск Скарына і яго час Энцыкл давед Мн, 1988, Спадчына Скарыны Зб матэрыялаў першых Скарынаўскіх чытанняў (1986) Мн, 1989, Францыск Скарына Зб дакументаў і матэрыялаў Мн, 1988, Пичета В И Аграрная реформа Сигизмунда — Августа в Литовско-Русском государстве [2 изд] М, 1958, Яго ж Белоруссия и Литва XV—XVI вв М, 1961, Антонович В Б Очерк истории Великого княжества Литовского до половины XV ст Вып 1 Киев, 1878, Лаппо И И Велнкое княжество Литовское за время от заключения Люблинской унии до смерти Стефана Батория (1569—1586) Т 1 Спб, 1901, Любавский М К Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно 2 изд М, 1915, Яго ж Литовско-русский сейм М, 1900, Яго ж Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского статута Ист очерки [М, 1892], Максимейко Н А Сеймы Литовско-Русского государства до Люблинской уиии 1569 г Харьков, 1902, Малиновский И Рада Великого княжества Литовского в связи с боярской думой древней России Ч 2, вып 2 Томск, 1912, Довнар-Запольский М Государственное хозяйство Великого княжества Литовского при Ягеллонах Т 1 Киев, 1901, Яго ж Гісторыя Беларусі Ми, 1994, Владимирский-Буданов М Ф Очерки из истории литовско-русского права [Ч] 1—2 Киев, 1889—90, Дашкевич Н Заметки по истории Литовско-Русского государства Киев, 1885, Ластоўскі В Ю Кароткая гісторыя Беларусі Мн, 1993, Ігнатоўскі У М Кароткі нарыс гісторыі Беларусі 5 выд Мн, 1991, Греков И Б Очерки по истории международных отношений Восточной Европы XIV—XVI вв М, 1963, З гісторыяй на «Вы» Публіцыст арт Ми, 1991, Похилевич Д Л Крестьяне Белоруссии и Литвы в XVI—XVIII вв Львов, 1957, Яго ж Крестьяне Белоруссии и Литвы во второй половине XVIII века Вильнюс, 1966, Грушевский А С Города Великого княжества Литовского в XIV—XVI вв Старина и борьба за старину Киев, 1918, Копысский З Ю Экономическое развитие городов Белоруссии в XVI — первой половине XVII в Мн, 1966, Яго ж Социально политическое развитие городов Белоруссии в XVI — первой половине XVII в Мн, 1975, Грицкевич А П Частновладельческие города Белоруссии в XVI—XVIII вв Мн, 1975, Яго ж Социальная борьба горожан Белоруссии (XVI—XVIII вв) Ми, 1979, Яго ж Древний город иа Случи Ми, 1985, Грыцкевіч В П, Мальдзіс А І Шляхі вялі праз Беларусь Мн, 1980, Найдзюк Я, Касяк І Беларусь учора і сяньня Мн, 1993, Козловский П Г Крестьяне Белоруссии во второй половине XVII—XVIII в Мн, 1969, Яго ж Магнатское хозяйство Белоруссии во второй половине XVIII в Мн, 1974, Яго ж Землевладение и землепользование в Белоруссии в XVIII — первой половине XIX в Ми, 1982, Мальцев А Н Россия и Белоруссия в середине XVII в М, 1974, Ткачоў М А Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII—XVIII стст Мн, 1978, Яго ж Замкі і людзі Мн, 1991, Улащик Н Н Введение в изучение белорусско-литовского летописания М, 1985, Чамярыцкі В А Беларускія летапісы як помнікі літаратуры Мн, 1969, Подокшин С А Реформация и общественная мысль Белоруссии и Литвы (Вторая половина XVI — начало XVII в) Мн, 1970, Ермаловіч М І Па слядах аднаго міфа 2 выд Мн 1991 Яго ж Старажытная Беларусь Полацкі і навагародскі перыяды Ми, 1990, Беларусь у Вялікім княстве Літоўскім Стэнагр пасядж Міжнар круглага стала, Мінск, 6—7 крас 1992 г Мн, 1992 (Беларусістыка), Юхо Я А Кароткі нарыс гісторыі дзяржавы і права Беларусі Мн, 1992, Яго ж Правовое положение населения Белоруссии в XVI в Мн, 1978, Гринблат М Белорусы Очерки происхождения и этнич истории Мн, 1968, Гісторыя Мінска Мн, 1967 Kosman M Historia Białorusi Wrocław etc, 1979, Ochmański J Historia Litwy 2 wyd Wrocław etc 1967 Bardach J Studia z ustroju i prawa Wielkiego Księstwa Litewskiego XIV—XVII w Warszawa, 1970, Яго ж O dawnej i niedawnej Litwie Poznan, 1988, Alexandrowicz S Rozwoj kartografii Wielkiego Księstwa Litewskiego od XV do połowy XVIII wieku 2 wyd Poznan, 1989, Kolankowski L Dzieje Wielkiego Księstwa Litewskiego za Jagiełłonow T 1 Warszawa 1930, Krzyźaniakowa J, Ochmanski J Władysław II Jagiełło Wrocław etc, 1990, Łowmianski H Studia nad dziejami Wielkiego Księstwa Litewskiego Poznan 1983, Morzy J Kryzys demograficzny na Litwie i Białorusi w II połowie XVII wieku Poznan, 1965, Halecki O Dzieje unii Jagiełłonskiej T 1—2 Krakow, 1919—20, Kutrzeba S Historja ustroju Polski w zarysie T 2 2 wyd Lwow, Warszawa, 1921, Boniecki A Poczet rodow w Wielkiem Księstwie Litewskiem w XV i XVI w Warszawa, 1887, Wolff J Senatorowie i dygnitarze Wielkiego Księstwa Litewskiego, 1385—1795 Krakow, 1885, Jurginis J Baudžiavos įsigalejimas Lietuvoje Vilnius, 1962, Jučas M Lietuvos metraščiai Vilnius 1968, Dundulis B Lietuvių kova del Žemaitijos ir Užnemunes XV amžiuje Vilnius, 1960, Яго ж Lietuvos kova del valstybinio savarankiškumo 15 amž Vilnius, 1968 *А П Грыцкевіч*

**ВЯЛІ́КАЕ МАЖЭ́ЙКАВА,** веска, цэнтр Мажэйкаўскага сельсавета Шчучынскага р-на. За 25 км на ПнУ ад Шчучына, 4 км ад чыг ст. Скрыбаўцы, на аўтамаб. дарозе Жалудок — Васілішкі 871 ж., 370 двароў (1993)

У пісьмовых крыніцах Мажэйкава вядома з пач. 16 ст. як дварэц (фальварак) у складзе велікакняжацкай Жалудоцкай вол. Трокскага ваяв., вял. князь аддаваў у часовае карыстанне розным асобам за «службу». У 1506 вял. кн. ВКЛ і кароль польскі Жыгімонт І Стары даў Мажэйкава каралеўскаму дваранíну Міхайлу Гагіну Аднак за здраду апошняга ў час вайны Маскоўскай дзяржавы з ВКЛ 1507—08 маентак быў адабраны У 1508 Мажэйкава падаравана кн. Васілю Андрэевічу Палубенскаму. Ён быў арыштаваны за зносіны з Міхаілам Глінскім, але потым памілаваны і ў 1514 атрымаў пацвярджэнне на валоданне Мажэйкавам, якое ў далейшым стала называцца В. М. ў адрозненне ад суседняга *Малога Мажэйкава* Пасля смерці кн. Палубенскага (1550) маенткам распараджалася яго ўдава Соф'я Паўлаўна, якая памерла ў 1563 Спадчынніцай засталася ўнучка кн Васіля Андрэевіча Марына Львоўна Палубенская (жонка Станіслава Паўлавіча Нарушэвіча), якая адмовілася ад В М. на карысць Яна Шымкавіча, сына Соф'і Паўлаўны ад першага шлюбу Пасля Я. Шымкавіча (памер у 1568) В. М валодалі дочкі (паводле інш. звестак пляменніцы) Альжбета (жонка падскарбія ВКЛ Крыштафа Мікалаевіча Нарушэвіча) і Багдана (жонка мсціслаўскага ваяводы Андрэя Сапегі). У 1616 В. М купіў віленскі ваявода Януш Скумін-Тышкевіч Пасля яго смерці ў 1642 маенткам валодалі яго дачка Яўгенія Кацярына, потым яе сын бэлзскі ваявода кн. Дзмітрый Вішнявецкі, які прадаў В М. падканцлеру ВКЛ Аляксандру Нарушэвічу, уладальніку суседняга Малога Мажэйкава Пасля смерці А. Нарушэвіча В. М. валодала яго ўдава Тэадора Аляксандра, а калі тая памерла ў 1678, маентак дастаўся яе дачцэ Марыяне Тэклі (жонка абознага ВКЛ Юрыя Караля Хадкевіча). У 1690 у В М. былі 184 дамы. З канца 16 ст В. М. ўваходзіла ў склад Лідскага пав. Віленскага ваяв. У 18 ст ім валодалі Хадкевічы, у 19 — пач 20 ст графы Грабоўскія. З 1795 у складзе Рас імперыі. Да 1886 было цэнтрам Вялікамажэйкаўскай воласці (валасное праўленне знаходзілася ў суседняй в Заброеўцы), пазней веска ўвайшла ў склад Лебядскай вол Лідскага пав Віленскай губ. У 1885 у В. М. 67 рэвізскіх душ. У 1886 у панскай сядзібе В М былі каталіцкая капліца, бровар, піцейны дом. У 1905 у графаў Грабоўскіх у В М 5769 дзесяцін зямлі У 1913 маянтковы бровар (паравы рухавік у 25 к с і 7 рабочых) вырабіў 30 тыс ведзер гарэлкі на суму 22 тыс рублеў У 1919—20 В М. пераходзіла з рук у рукі занята польскім войскам, Чырв Арміяй. З 1921 — у складзе Польшчы, у Шчучынскім пав. Навагрудскага ваяводства. З 1939 у БССР, з 12.1 1940 у Жалудоцкім р-не З чэрв. 1941 да ліп 1944 акупіравана ням.-фаш захопнікамі З 17.4.1962 у Шчучынскім р-не, з 1 8 1966 цэнтр сельсавета. У 1970 1008 ж, 298 двароў. Цэнтр саўгаса «Вялікае Мажэйкава». З-д с.-г. інвентару, камбінат быт. абслугоўвання Базавая школа, Дом культуры, б-ка, дзіцячыя яслі-сад, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, сталовая, 5 магазінаў Помнік архітэктуры сядзіба канца 18 — пач. 19 ст. з паркам, закладзеным у 1787, і гасп. будынкамі *Г М Брэгер*

**ВЯЛІКАЛІТО́ЎСКІ ФОНД ІМЯ́ Л. САПЕ́ГІ,** прыватны дабрачынны фонд. Засн. 14.8.1975 Я і С Станкевічамі ў ЗША. Фінансуе і заахвочвае работу даследчыкаў бел. гісторыі, л-ры, мовы, культуры і мастацтва, выдае навук працы, падручнікі, слоўнікі Фондам устаноўлены стыпендыі для бел студэнтаў, якія паспяхова навучаюцца ў амерыканскіх ВНУ

**ВЯЛІ́КАЯ АЙЧЫННАЯ ВАЙНА 1941—45,** вызваленчая барацьба савецкіх народаў супраць фаш Германіі, яе саюзнікаў і памагатых, частка *другой сусветнаи вайны 1939—45* Працягвалася з 22 6 1941 да 9 5 1945, на тэр Беларусі —

з 22.6.1941 да 28.7.1944. Вялася сродкамі ваеннай, эканам., паліт. і ідэалагічнай барацьбы. У адпаведнасці з планам *«Барбароса»* Германія выставіла супраць СССР 153 дывізіі, яе саюзнікі (Італія, Румынія, Венгрыя і Фінляндыя) — 37 дывізій; іх падтрымлівалі 4 паветр. флаты, усяго 5,5 млн чал., 47,2 тыс. гармат і мінаметаў, каля 4,3 тыс. танкаў і штурмавых гармат, каля 5 тыс. баявых самалетаў, 192 баявыя караблі Баявыя дзеянні на тэр. Беларусі пачаліся ў ноч на 22.6.1941 пранікненнем у яе паветраныя прасторы 2-га флоту ВПС Германіі, нападам на пагранзаставы ўдарных атрадаў гітлераўцаў, прыкрытых артыл. агнем, дыверсійна-тэрарыстычнымі дзеяннямі ў прыгранічнай паласе спец каманд палка «Брандэнбург-800» На Беларусь наступала група армій «Цэнтр» (каманд. ген.-фельдмаршал фон Бок) у складзе 2-й і 3-й танк. груп (Гудэрыян, Гот), 4-й і 9-й палявых армій (Клюге, Штраус); усяго 50 дывізій (у т. л. 15 танк. і матарызаваных) і 2 матарызаваныя брыгады. Яе падтрымліваў 2-гі паветр. флот (1,6 тыс. баявых самалетаў). Уздоўж зах граніцы ім процістаялі разгрупаваныя на глыбіню 400—600 км каля 50 дывізій *Заходняй Асобай ваеннай акругі*, якая 22 6 1941 пераўтворана ў *Заходні фронт 1941—44* (да 2 7.1941 камандуючы Дз Р *Паўлаў*) У 1-м эшалоне прыкрыцця знаходзіліся арміі 3-я (каманд. ген.-лейт В. І. Кузняцоў), 10-я (ген-маер К. Дз Голубеў) і 4-я (ген.-маер А. А Карабкоў); усяго 11 стралк., 2 танк і 1 кав. дывізіі.

Войскі Зах. фронту з першых гадзін вайны і на доўгі час адступлення засталіся практычна без паветр. прыкрыцця. Масіраванымі ўдарамі па 26 аэрадромах (у т л. ў Пружанах, Кобрыне, Купліне, Імянінах) авіяцыі праціўніка ўдалося знішчыць на зямлі 528 самалетаў, 210 былі збіты ў паветр. баях. Уся Чырв. Армія ў пачатку вайны страціла 1,2 тыс. самалетаў, у т. л. 800 на аэрадромах. На досвітку першага дня вайны бомбавыя ўдары былі нанесены па гарадах Баранавічы, Беласток, Брэст, Ваўкавыск, Гродна і інш Ваен летчыкі Зах фронту 22 чэрв. зрабілі больш за 1,9 тыс. вылетаў, нанеслі ўдары па аэрадромах праціўніка ў Сакалове, Лукаве, Седлецы, Бяла-Падлясцы, па калонах мотапяхоты ў раенах Цеханаўца, Сувалкаў, Аўгустова, Канстанцінава У паветры было знішчана больш за 100 самалетаў праціўніка У першыя гадзіны вайны летчыкі П. С *Рабцаў*, А. С. *Данілаў*, С М. *Гудзімаў* таранілі варожыя самалеты. У першыя дні вайны неўміручыя подзвігі здзейснілі экіпаж капітана М. Ф. *Гастэлы*, капітан А. М. Аўдзееў, ст. лейт. І. З. Прэсайзен, лейт. П П. Страленка свае падбітыя самалеты яны накіравалі на вялікія скопішчы варожай тэхнікі. Самаахвярна змагаліся пагранічнікі 86-га Аўгустоўскага, 87-га Ломжынскага, 88-га Шапятоўскага, 17-га Брэсцкага атрадаў, якія мелі на ўзбраенні толькі легкую стралк. зброю (гл. *Брэста абарона 1941*), гарнізон Брэсцкай крэпасці (гл. *Брэцкай крэпасці абарона 1941*) Не ўнеслі змен у ход баеў артыл.-куляметныя часці ўмацаваных раенаў. Асабліва цяжкае становішча склалася на Зах. фронце. У выніку прарыву танк. групы праціўніка на Каўнас і Вільнюс і наступлення на брэсцкім напрамку намнога большых сіл праціўніка стала відавочнай катастрофа першага складу армій Зах. ваен. акругі. На правым флангу Зах фронту камандуючы 3-й арміяй ген. Кузняцоў кінуў насустрач танкам Гота парадзелыя 56-ю стралк і 29-ю танк. дывізіі, але ў ноч на 23 чэрв. рэшткі войск 3-й арміі вымушаны былі адысці на рубеж рэк Котра і Свіслач, а раніцай 23 чэрв. пакінуць Гродна. На левым флангу асобныя часці 4-й арміі ген Карабкова адступілі на У. Толькі каля Маларыты 75-я стралк дывізія (ген.-маер С. І. Нядзвігін) аказала ворагу сур'езнае супраціўленне, а на правым флангу 4-й арміі на рубяжы Камянец — Жабінка была спроба контрударам аднавіць становішча Да канца 23 чэрв. войскі арміі пакінулі Кобрын, Бярозу, Пружаны, 24 чэрв адышлі да Баранавічаў і працягвалі адступаць у напрамку Мінска. 10-я армія, якая размяшчалася на Беластоцкім выступе і знаходзілася ў цэнтры Зах. фронту, апынулася ў цяжкім становішчы. Яе 13-ы механіз корпус (ген.-маер П Н Ахлюсцін) больш за суткі ўтрымліваў пазіцыі, але вымушаны быў з баямі адыходзіць да р. Сож. Камандуючы фронтам Паўлаў спрабаваў сіламі 6-га і 11-га механізаваных і 6-га кав. карпусоў 10-й арміі арганізаваць контрудар па танк. і пяхотных групах гітлераўцаў, што наступалі ад Сувалкаў, але ўзгоднены ўдар сав. часцей не ўдаўся, і 26-га чэрв. рэшткі гэтых карпусоў адышлі. Практычна да 26 чэрв ўсе 3 арміі Зах. фронту апынуліся ў «катле» паміж Беластокам і Мінскам; разрозненыя іх рэшткі вялі баі па прарыву акружэння.

Баі на подступах да Мінска былі кровапралітныя, скарацечныя. Да 28.7 1941 пераважаючым сілам праціўніка процістаялі разрозненыя абяскроўленыя часці і падраздзяленні з армій прыкрыцця, механіз і пях. карпусы і дывізіі 13-й арміі пад камандаваннем П. М. Філатава (гл. *Мінска абарона 1941*). 28 чэрв. ў 17 гадзін танкі і мотапяхота ворага ўварваліся ў Мінск. Цераз суткі ням-фаш. войскі замкнулі чарговы «кацел» вакол дывізій Зах. фронту, што абаранялі Мінск Да 30 6 1941 сілы Зах фронту складалі 16 значна аслабленых дывізій і 150 самалетаў, у т л 52 знішчальнікі

Каб апраўдаць страты і няўдачы ў пачатку вайны, І. В. Сталін вырашыў абвінаваціць у гэтым камандаванне Зах фронту. 2.7.1941 быў ілжыва абвінавачаны і расстраляны камандуючы фронтам Паўлаў. На яго месца прызначаны Маршал Сав. Саюза С. К. *Цімашэнка* Для правядзення «прафілактычных» мерапрыемстваў на Зах фронт у якасці члена Ваен. савета накіраваны нарком Дзяржкантролю СССР Л. З. Мехліс, і праз 4 дні, 6 ліп., Сталіну была паслана тэлеграма за подпісам Цімашэнкі, Мехліса і 1-га сакратара ЦК КП(б)Б П. К. *Панамарэнкі* пра «злачынную» дзейнасць камандавання Зах фронту, у т. л. нач. штаба, нам. камандуючага ВПС і нач. артылерыі, камандуючага 4-й арміяй, камандзіраў 9-й авіядывізіі, 42-й стралк. дывізіі, асобнага танк корпуса і інш. 1.7.1941 Стаўка Гал. Камандавання фактычна пачала фарміраванне 2-га складу Зах. фронту, у які ўвайшлі 20-я армія (ген.-лейт П. А. Курачкін), 21-я (ген-лейт В П Герасіменка), 22-я (ген-лейт. П. А. Ершакоў) За імі, на У ад Віцебска, і ў раене Смаленска сканцэнтравалася 19-я (ген.-лейт. І. С. Конеў) і 16-я (ген.-лейт. М.Ф. Лукін) арміі. У першым эшалоне знаходзілася 13-я армія (ген.-лейт. Ф. М Рэмезаў). На ўсіх рубяжах абароны Зах. фронту працягваліся жорсткія баі ад Себежскага ўмацаванага раена да Віцебска, па ўсх. беразе Зах Дзвіны, на левым беразе Дняпра і інш (гл. таксама *Абарончая аперацыя на Беларусі 1941*) З першага складу Зах. фронту ўцалела 11 дывізій, 8 з якіх былі адносна баяздольныя. У пач. ліп вяліся баі на У і Пн Беларусі (гл *Полацка абарона 1941*, *Віцебска абарона 1941*, *Гомеля абарона 1941*, *Лепельскі контрудар 1941*, *Смаленская бітва 1941*). На 800-кіламетровым фронце ад Себежа да Рагачова ням. войскі сустрэлі актыўнае супраціўленне Чырв Арміі. У ліп. пачалі фарміравацца атрады *народнага апалчэння* У Магілеўскай вобл. было сфарміравана 14 батальенаў нар апалчэння, у Гомельскай — 18 атрадаў і полк, у Віцебскай — 4 батальены, у Палескай — 121 атрад, усяго больш за 33 тыс. чал. Часам у атрады нар. апалчэння рэарганізоўваліся знішчальныя батальены, створаныя ў першыя дні вайны.

У цэнтры Зах. фронту, на Аршанска-Смаленскім напрамку, куды наступала галоўная групоўка праціўніка, няроўную барацьбу вялі войскі 19-й, 20-й і 16-й сав. армій. 14.7.1941 у раене Оршы ўпершыню ў баі была выкарыстана новая зброя — рэактыўныя мінаметы «кацюша». Больш арганізаванымі і таму больш паспяховымі ў абароне былі дзеянні сав. войск на левым флангу Зах. фронту — ад Магілева да Гомеля, але пасля 5-дзенных баеў 16 ліп. 2-я танк група праціўніка здолела ўзяць «у абцугі» войскі 13-й арміі, што абаранялі Магілеў (гл *Магілева абарона 1941*) 10 дзен у акружэнні абаронцы Магілева адцягвалі на сябе 6 пях. і танк. дывізій праціўніка і толькі 26 ліп. пайшлі на прарыў акружэння. На ПдУ Беларусі ворагу процістаялі войскі 21-й арміі; яе 63-і стралк. корпус (ген.-лейт Л. Р. Пятроўскі) у час кровапралітнай Смаленскай бітвы пры падтрымцы артылерыі пачаў пераправу цераз Дняпро, захапіў плацдарм, у імклівым наступленні ўварваўся на ўскраіны Рагачова і Жлобіна. З 25 ліп на працягу амаль 10 дзен конна-механіз група (палк А. І. Бацкалевіч) наносіла ўдары па ворагу ў раене Глуск—Старыя

Дарогі—Сіманавічы, адцягваючы на сябе буйныя сілы праціўніка. На ўчастку Чэрыкаў—Прапойск да 25 ліп. пагеройску змагалася 55-я стралк. дывізія Г. А. Тэр-Гаспарана, якая прайшла з баямі ад Баранавічаў цераз Слуцк—Бабруйск—Рагачоў і Прапойск, захавала баяздольнасць і забяспечыла выхад з акружэння фарміраванням 13-й арміі. У 2-й палавіне ліпеня на цэнтр. напрамку сав.-герм. фронту вызначыліся 2 стратэгічна важныя ачагі ў раёнах Смаленска і Рагачова — Жлобіна. Рашэннем Стаўкі Вярх. Камандавання Рагачоўска-Жлобінскі ўчастак быў вылучаны ў Цэнтральны фронт (ген.-палк. Ф. І. Кузняцоў), якому былі перададзены 13-я і 21-я арміі; штаб дыслацыраваўся ў Гомелі. У пач. жніўня з акружэння ў Калінкавічах у паласу Цэнтр. фронту выйшаў штаб 3-й арміі. У канцы 1-й дэкады жніўня разгарнуліся баі ў раёне Гомеля, дзе наступала 2-я ням. армія групы армій «Цэнтр»; з У ад Крычава на Навазыбкаў і Унечу магутныя ўдары наносіла танк. група Гудэрыяна. 12.8. 1941 жорсткія баі ішлі ўжо на ўсіх рубяжах Цэнтр. фронту. У цяжкіх баях адзін за адным вычэрпвалі свае магчымасці стралк. карпусы Цэнтр. фронту. У бой усё часцей уступалі зводныя атрады і групы. 15.8.1941 сав. войскі пакінулі Хоцімск, 19 жніўня — Гомель. Рэшткі 13-й, 21-й і 3-й армій перададзены ў падпарадкаванне *Бранскага фронту 1943*. Да пач. вер. 1941 уся тэр. Беларусі была акупіравана ням.-фаш. захопнікамі.

За першыя 2 месяцы вайны на рубяжах абароны, у варожых «катлах» апынуліся амаль два склады байцоў і камандзіраў Заходняга (Цэнтральнага) фронту. Катастрофа, якая напаткала Чырв. Армію і краіну ў пачатку вайны, мела рэальныя прычыны: некампетэнтная самаўпэўненасць вышэйшага эшалона партыйнага і дзярж. апарату ў цэнтры і на месцах, нізкі прафесіяналізм стратэгічнага кіраўніцтва, бескантрольнасць і беспакаранасць дзеянняў залітага крывёй адміністрацыйна-рэпрэсіўнага апарату ва ўсіх яго эшалонах. Па віне Сталіна і ўсёй таталітарна-ўладнай сістэмы плацдармы заходніх ваен. акруг аказаліся непадрыхтаванымі да абарончых баёў. За 3 гады да пачатку вайны Чырв. Армія фактычна была пазбаўлена таленавітага камандавання; узбр. сілы былі інтэлектуальна абяскроўлены, афіцэрскі корпус маральна задушаны масавымі рэпрэсіямі. Адной з прычын няўдач і страт у пачатку вайны была замацаваная ўсімі сродкамі агітацыі і прапаганды ў арміі і грамадстве ваен. дактрына, краевугольным каменем якой з'яўлялася непахісная вера ў геній Сталіна, у талент «першага маршала і лепшага палкаводца сучаснасці» К. Я. Варашылава, у тое, што пад іх кіраўніцтвам вораг будзе разбіты на яго ўласнай зямлі «малой крывёю, магутным ударам». Сутыкненне самаўпэўненай дактрыны з рэальнасцямі вайны, перавага праціўніка ў паветры, матарызацыя яго сухапутных сіл, імклівасць прарываў і моцнасць «катлоў» праціўніка прывялі да дэмаралізацыі значнай часткі асабовага складу сав. войск (адсюль паніка, велізарныя страты і палон). Адступленне сав. войск не было правам выбару камандуючых, стаўкі або Дзяржаўнага камітэта абароны, яно было вымушанае.

З пачаткам вайны Панамарэнка пакінуў Мінск. Перад кіраўніцтвам рэспублікі з першых гадзін вайны паўстала цяжкая задача выратавання насельніцтва, эвакуацыі маёмасці прадпрыемстваў, устаноў, прадукцыі і сыравіны. Першыя эвакапункты арганізаваны 23.6.1941 у Мінску і Оршы, пазней яшчэ ў 24 нас. пунктах, дзе насельніцтва атрымлівала матэрыяльную дапамогу, на што было асігнавана 3 млн. руб. 25.6.1941 у Лупалаве (пад Магілёвам) пачала дзейнічаць Цэнтральная эвакуацыйная камісія БССР пад кіраўніцтвам Старшыні СНК БССР І. С. Былінскага. Яе функцыі пашыраліся на не занятыя ворагам тэр. Гомельскай, Магілёўскай, Віцебскай і Палескай абл. Камунікацыі на Беларусі падвяргаліся бомбавым ударам, перара-

Да арт. **Вялікая Айчынная вайна 1941—45.** Плакат маст. В. Б. Карэцкага. 1943.

залися танкамі і дэсантнымі групамі гіт лераўцаў. У ліп.-жн. намаганнямі цэнтр. і мясц. органаў улады ўдалося эвакуіраваць 16 435 дзяцей з 191 дзіцячай установы, піянерскіх лагераў, дзіцячых дамоў і інш. Усяго з Беларусі было эвакуіравана 1,5 млн. чал. Працоўныя Беларусі дэманціравалі, пагрузілі ў вагоны і даставілі ў глыбокі тыл СССР абсталяванне 124 буйных прамысл. прадпрыемстваў, 7 электрастанцый, падстанцый, матэрыяльныя каштоўнасці 9 баз, буд. арг-цый, вузлоў сувязі, арцелей прамкааперацыі. Бел. чыгуначнікі эвакуіравалі кадравых работнікаў чыгункі, выратавалі асн. частку рухомага саставу, станочны парк і іншую маемасць чыг. вузлоў. Трактары, камбайны, племянная жывела і інш. маёмасць калгасаў, саўгасаў і МТС эвакуіраваліся ў раёны Расіі «сваім ходам» (гл. таксама *Эвакуацыя*).

З першых дзён вайны распачалася ваенна-мабілізацыйная работа, змест і формы якой былі вызначаны дырэктывай СНК СССР і ЦК ВКП(б) ад 29.6.1941 Да сярэдзіны ліп 1941 у Чырв. Армію з Беларусі мабілізавана больш за 200 тыс. чал., вайсковым часцям перададзена 2,5 тыс аўтамашын, больш за 35 тыс коней, 23 тыс. павозак і інш. Усяго за лета 1941 з Беларусі прызвана ў Чырв. Армію больш за 0,5 млн. чал. У Віцебскай, Гомельскай, Магілёўскай, Палескай абл. сотні тысяч жанчын і падлеткаў былі мабілізаваны на будаўніцтва абарончых рубяжоў.

Прынцыповая праграма барацьбы ў тыле ворага ў першыя ж тыдні вайны сфармулявана ў дырэктывах ЦК КП(б)Б ад 30.6 1941 аб падрыхтоўцы да пераходу на падп. работу партарганізацый раёнаў, якія знаходзіліся пад пагрозай фаш. акупацыі і занятых ворагам, і ад 1.7.1941 аб разгортванні партыз. вайны ў тыле ворага, а таксама ў пастанове ЦК ВКП(б) ад 18.7.1941 «Аб арганізацыі барацьбы ў тыле германскіх войск».

Да арт **Вялікая Айчынная вайна 1941—45.** Апалчэнцы-гамяльчане вядуць агонь па ворагу каля в Краснае Гомельскага р-на 1941

Галоўнае месца ў арганізацыі барацьбы ў тыле ням.-фаш арміі летам 1941 адводзілася перакідцы за лінію фронту дыверсійна-разведвальных груп. Гэтым пытаннем займаўся Аператыўна-вучэбны цэнтр Зах. фронту пры Школе ЦК КП(б)Б Перакідка спецгруп здзяйснялася праз аператыўныя групы 3-й, 13-й і 21-й армій. За ліп.— кастр. 1941 у тыл ворага накіравана 317 атрадаў з 2605 чал. Многія групы загінулі ў сутычках з ворагам. У гэты ж час пачала фарміравацца структура парт. і камсамольскага апарата для ваенна-паліт. і арганізацыйна-кіруючай дзейнасці ў тыле ворага У крас 1942 створаны *Асобы беларускі збор* — курсы па падрыхтоўцы арганізатараў партыз. руху. На яго базе з 26.11.1942 стала працаваць *«Беларуская школа»*

Да восені 1941 ням.-фаш. войскі акупіравалі значную частку тэр. СССР, блакіравалі Ленінград, выйшлі на блізкія подступы да Масквы, прарваліся да Растова, але асн. стратэгічны план — разбіць Чырв Армію і захапіць Маскву — вораг не здолеў ажыццявіць. У цяжкіх баях сав. войскі нанеслі праціўніку значныя страты і захавалі баяздольнасць, быў выйграны час і падрыхтаваны ўмовы для контрнаступлення, якое пачалося 5—6.12.1941 пад Масквой (гл. *Маскоўская бітва 1941—42*). Разгарнулася агульнае зімовае наступленне на фронце ад Ленінграда да Чорнага мора, у выніку якога Чырв. Армія адкінула ворага на 350—400 км; на віцебскім напрамку наблізілася да граніцы Беларусі. У бітве пад Масквой сав войскі ўпершыню ў 2-ю сусв. вайну нанеслі цяжкае паражэнне фаш. Германіі, разграмілі 38 яе дывізій

На акупіраванай тэр. Беларусі гаспадарылі тры ведамствы фаш. дзяржавы гал камандаванне ўзбр. сіл, гал. ўпраўленне імперскай бяспекі і імперскае мін-ва па справах акупіраваных усх. абласцей (гл *Акупацыйны рэжым*). Да кастрычніка 1941 фашысты ўстанавілі межы генеральных акруг, рэйхс- і гебітскамісарыятаў. На тэр. цэнтральнай Беларусі была ўтворана *генеральная акруга «Беларусь»*, якая ўваходзіла ў рэйхскамісарыят «Остланд» (разам з ген акругамі «Латвія», «Літва», «Эстонія»); паўд. раёны Гомельскай, Палескай, Пінскай і Брэсцкай абл. былі ўключаны ў рэйхскамісарыят «Украіна»; Беластоцкая і частка Баранавіцкай вобл. вылучаны ў акругу «Беласток» у складзе Усх Прусіі; ген акрузе «Літва» былі аддадзены Ашмянскі, Свірскі і Відзаўскі раёны. Тэрыторыя на У ад лініі Полацк — Барысаў — р Бярэзіна — воз. Чырвонае лічылася вобласцю аховы тылу групы армій «Цэнтр» У ген. акрузе «Беларусь» вышэйшым цывільным адм. органам быў генеральны камісарыят на чале з ген. камісарам В. Кубэ, з вер. 1943 — К фон Готбергам У яго функцыі ўваходзіла эканам. эксплуатацыя і ідэалагічная апрацоўка насельніцтва акругі. Ваенна-адм. ўпраўленне знаходзілася ў руках камандзіра 707-й пях. дывізіі, якая да сак. 1942 размяшчалася ў Мінску. Рэпрэсіўныя функцыі да снеж. 1941 здзяйснялі аператыўныя групы рэйхсфюрэра СС Гімлера (айнзатц-групы «С», «В», «А»), а потым — упраўленне паліцыі бяспекі і СД. На тэр. ген. акругі «Беларусь» пастаянна размяшчалася не менш як 6 палкоў з 707-й і 339-й пях дывізій, 202-й ахоўнай брыгады, 75-ы ландверны (ахоўны) полк. Зімой 1941—42 пад іх аховай знаходзілася 15 перасыльных і стацыянарных лагераў для сав. ваеннапалонных. У вобласці аховы тылу групы армій «Цэнтр» улада знаходзілася ў руках ваен і паліцэйскіх органаў, прадстаўленых штабам тылу. У распараджэнні нач штаба і адначасова камандуючага ахоўнымі войскамі ген Шэнкендорфа знаходзіліся 4 ахоўныя дывізіі з часцямі ўзмацнення, сфарміраванымі з калабарацыяністаў (батальёны «Дзвіна», «Бярэзіна», «Волга», «Дняпро», «Прыпяць», казацкі, 4 т. зв. ўсходнія батальёны, 2 казацкія сотні, франц. полк). Акрамя ахоўных дывізій і фарміраванняў з калабарацыяністаў супраць партызан і насельніцтва дзейнічалі 59-ы армейскі корпус, 2 вучэбна-палявыя дывізіі, 8 груп тайнай палявой паліцыі (ГФП) і інш. Фарміраванні вермахта і абвера, палкі і дывізіі саюзнікаў Германіі. СС і паліцыю «Цэнтр» узначальваў обергрупенфюрэр СС Бах-Зелеўскі, пад кіраўніцтвам якога па ўсёй

Да арт **Вялікая Айчынная вайна 1941—45.** Магілёўчане капаюць процітанкавыя равы пад Магілевам 1941

тэр. Беларусі бясчынствавалі 1-я матарызаваная брыгада СС, 2 паліцэйскія палкі і 5 паліцэйскіх батальёнаў. Памагатымі акупантаў ва ўсталяванні т. зв. новага парадку былі і беларускія арганізацыі прафашысцкай арыентацыі: *Беларуская народная самапомач, Беларуская рада даверу* пры генеральным камісарыяце Беларусі, вайсковае фарміраванне *Беларуская краёвая абарона.* На Беларусі дзейнічалі шматлікія германскія гандлёвыя і вытворчыя фірмы: «Усход-валакно», «Шлахтхаў», «Троль і Трабец» і інш., якія займаліся рабаваннем і эксплуатацыяй насельніцтва. У 1941—42 супраць партызан і насельніцтва дзейнічала 11 дывізій, 3 брыгады (2 з іх СС), армейскі корпус, 6 асобных паліцэйскіх і ландверных палкоў, 57 асобных батальёнаў агульнай колькасцю каля 130 тыс. чалавек. Апрача таго на Беларусі пастаянна размяшчалася каля 30 тыс. карнікаў. Гэтым сілам на той жа перыяд процістаялі 56 партыз. брыгад, 125 асобна дзеючых атрадаў, некалькі дзесяткаў спецгруп НКДБ—НКУС і Галоўразведупра (каля 97 тыс. чал.), падп. патрыятычныя арг-цыі.

Нягледзячы на перавагу ва ўзбр. сілах, вораг у 1941—42 не здолеў захапіць ваен. ініцыятыву. Больш таго, да канца 1942 партызаны і падпольшчыкі, падтрыманыя насельніцтвам, прымусілі акупантаў адмовіцца ад спроб утрымаць за сабой усю акупіраваную тэр. Беларусі і сканцэнтраваць свае намаганні на абароне найважнейшых камунікацый і ваен. аб'ектаў. Першыя акты ўзбр. супраціўлення акупантам адносяцца да ліп. 1941: налёт на Старобін, разгром штаба ням. дывізіі ў *Воземлянскім баі 1941,* засадныя баі на дарогах, дыверсіі на чыг. магістралях; 1.7.1941 на ст. Негарэлае ўзарваны склад з боепрыпасамі; 16—17 ліп. праведзена серыя дыверсій на шляху ад Стоўбцаў да Оршы; на ст. Пагост узарваны стрэлкі і 200 м рэльсаў; каля Оршы ўзарваны масты і пуцеправод на станцыі; знішчаны чыг. палатно, стрэлкі і масты ад Асінаўкі да Краснага. Летам 1941 пачалі арганізацыйна фарміравацца і выпрацоўваць тактыку барацьбы падп. групы і арганізацыі ў занятых ворагам нас. пунктах, у лагерах і шпіталях ваеннапалонных, у гета, на чыг. станцыях, прамысл. прадпрыемствах і ўстановах ворага. Распачалі дзейнасць падп. арганізацыі на Аршанскім чыг. вузле, торфазаводзе «Асінторф», у Мінску, Віцебску, Магілёве, Гомелі, Уздзе, Дзяржынску, Расонах, Бабруйску і інш. (гл. таксама *Патрыятычнае падполле, Антыфашысцкія арганізацыі, Камсамольска-маладзёжнае падполле*). На працягу 1941—42 партызаны атакавалі і ліквідавалі больш за 500 апорных пунктаў ворага, разграмілі 123 гарнізоны і паліцэйскія ўчасткі, у 1942 падарвалі каля 850 эшалонаў праціўніка, разбурылі 179 мастоў, 115 км рэек. Сталі ствараіцца *партызанскія зоны,* якія ў канцы 1942 займалі каля 30 % тэр. Беларусі (гл. *Партызанскі рух*). Планы актыўнага рабавання бел. сялян былі сарваны сабатажам аграрнай палітыкі акупантаў і сумеснай барацьбой партызан, падпольшчыкаў, насельніцтва супраць гітлераўцаў. У канцы 1942 з 967 маёнткаў гаспадарчага штаба «Усход» партызаны разграмілі 262, а 363 апынуліся ў партыз. зонах. Партызанам і насельніцтву ўдалося ў значнай ступені сарваць у 1942 вываз лесу, піламатэрыялаў, торфу, лёну, канапель, збожжа, мяса і інш. Часта ўдаваліся партызанам і падпольшчыкам аперацыі па зрыву вывазу насельніцтва на работы ў Германію. Барацьба ў тыле ням.-фаш. арміі ішла адзіным фронтам з патрыётамі Расіі, Украіны, Літвы, Латвіі. Супраць правага крыла групы арміі «Цэнтр» разам з бел. партызанамі змагаліся ўкраінскія партыз. злучэнні С. А. Каўпака, А. М. Сабурава, А. Ф. Фёдарава; у тыле левага крыла на стыку з групай армій «Поўнач» — партызаны Літвы і Калінінскай вобл.; у цэнтры — партыз. фарміраванні Арлоўскай і Смаленскай абл. У час *Сталінградскай бітвы 1942* (ліп.— снеж. 1942) бел., арлоўскія, прыбалтыйскія, смаленскія і ўкр. партызаны правялі 1676 баёў, учынілі 2020 дыверсій на камунікацыях ворага, разбурылі 239 мастоў, 196 разоў рвалі кабель, што звязваў «Цэнтр» са стаўкай Гітлера. Было наладжана матэрыяльна-тэхнічнае забеспячэнне партыз. фарміраванняў і падп. арг-цый Беларусі. 30.5.1942 пры

Да арт. **Вялікая Айчынная вайна 1941—45.** Разбураны гітлераўцамі Слуцк. Ліпень 1941.

Да арт. **Вялікая Айчынная вайна 1941—45.** Пераправа савецкіх войск цераз Заходнюю Дзвіну ў раёне Бешанковіч. 1944.

Стаўцы ВГК створаны *Цэнтральны штаб партызанскага руху* (ЦШПР, нач штаба П К. Панамарэнка), 9.9 1942 — *Беларускі штаб партызанскага руху* (БШПР, нач. штаба П. З. *Калинін*). Іх агульнымі намаганнямі вялася каардынацыя партыз. руху Жорсткія баі на сав.-герм. фронце ў 2-й пал. 1942 абавязвалі партызан і падпольшчыкаў Беларусі ўзмацніць інтэнсіўнасць сваіх дзеянняў. Партыз фарміраванні раслі колькасна, набывалі вопыт. Больш за 52 % партызан Беларусі ўступілі ў атрады ў час Сталінградскай бітвы. Толькі ў вер — ліст. 1942 партызаны ўчынілі 129 крушэнняў воінскіх эшалонаў, узарвалі некалькі чыгуначных мастоў, у т. л. цераз рэкі Дрыса і Пціч Супраць партызан і насельніцтва партызанскіх зон гітлераўцы пастаянна праводзілі *карныя аперацыі* Першая карная аперацыя *«Прыпяцкія балоты»* імі праведзена ўжо ў ліп. 1941. Усяго за гады акупацыі фашысты правялі на Беларусі больш за 140 карных аперацый У кастр 1942 шэф ням паліцыі Гімлер аддаў загад групенфюрэру СС Бах-Зелеўскі ўсімі сродкамі «заспакоіць» антыфашысцкі рух на Беларусі З восені 1942 і амаль да вызвалення на Беларусі ішлі бесперапынныя крывапралітныя баі партызан з карнікамі.

Перамога Чырв. Арміі пад Сталінградам стала пачаткам карэннага пералому ў ходзе вайны. Спадзеючыся вярнуць стратэгічную ініцыятыву, ням.-фаш. войскі 5.7.1943 пачалі буйное наступленне ў раене Курска (гл. *Курская бітва 1943*), але і тут былі разгромлены

Пачаўся новы этап вайны — паступовае выцясненне ворага з захопленых ім тэрыторый Чырв Армія прасунулася на З на 500—1300 км, вызваліла амаль $^{2}/_{3}$ сав. тэрыторыі. На Беларусі партыз рух нарастаў Колькасць партызан дасягнула 153,5 тыс. чал., 85 % з іх — жыхары Беларусі. Да канца 1943 на Беларусі дзейнічала 144 партыз. брыгады Павялічылася колькасць партыз. зон, іх стала больш за 20 Партызаны пры падтрымцы насельніцтва разграмілі ці прымусілі да ўцекаў каля 500 ням гарнізонаў. Паміж партызанамі і гітлераўцамі часта адбываліся жорсткія баі (гл. *Плешчаніцкая аперацыя 1943, Докшыцка-Круляўшчынская аперацыя 1943, Бялыніцкія аперацыі 1943, Лепельская аперацыя 1943*).

У крас 1943 Гітлер сваей дырэктывай пацвердзіў, што барацьба з партызанамі лічыцца раўназначнай баявым дзеянням на франтах Для барацьбы з партызанамі кіраўніцтва фаш. Германіі дадаткова накіравала ў 1943 часці 3-й танк і 2-й палявой армій, 51-ю бамбардзіровачную эскадру, 7-ю авіяэскадрыллю асобага прызначэння, 10-тысячную брыгаду Б Камінскага, 8-ы венгерскі каралеўскі корпус, 46-ы танк. корпус Партызаны распрапагандавалі больш за 10 тыс чал карных фарміраванняў з калабарацыяністаў, у т л ўзвод цяжкага ўзбраення і разведкі і пяхотную роту «рускай вызваленчай арміі»; эскадрон казакоў з «добраахвотніцкага» палка на чале з М. М. Гагарыным, 180 салдат 53-га паліцэйскага батальена з Пашкоўскіх казарм; 1-ю Рускую нацыянальную брыгаду СС — больш за 1,5 тыс. салдат на чале з палкоўнікам У. У. *Гіль-Радзіенавым*, 825-ы «Остмусульманскі» батальен і інш Больш эфектыўным стала ўзаемадзеянне партызан з Чырв. Арміяй Напярэдадні наступлення сав войск партыз брыгады 1-я, 2, 3 і 4-я Беларускія, 1-я імя К. С. Заслонава, «Аляксея» (пазней імя А. Ф. Данукалава), «За Савецкую Беларусь», Сіроцінская (пазней імя Кароткіна), «Няўлоўныя», Беларуская дыверсійная баявымі дзеяннямі паралізавалі рух на чыгунках Даўгаўпілс — Віцебск — Смаленск і Полацк — Невель, перарэзалі камунікацыі забеспячэння 3-й танк. арміі і 59-га армейскага корпуса; баявымі дзеяннямі адцягнулі на сябе часці 12-й танк. дывізіі 11-й арміі У час *Смаленскай аперацыі 1943* перад імі была пастаўлена задача нанесці паражэнне 3-й танк. арміі, адкрыць шлях на Беларусь у міжрэччы Дняпра і Зах Дзвіны. Напярэдадні гэтай аперацыі па загаду ЦШПР у ноч на 3.8.1943 пачалі аперацыю *«Рэйкавая вайна»* і нанеслі магутныя ўдары па ракаднай дарозе Невель — Орша — Магілеў і магістралях Мінск — Орша, Полацк — Невель, Полацк — Віцебск. У «Рэйкавай вайне» ўдзельнічалі амаль усе сілы партызан Беларусі, Смаленскай і Калінінскай абл — 130 брыгад, каля 150 палкоў і асобна дзеючых атрадаў; усяго каля 200 тыс чал. Буйныя сілы праціўніка былі скаваны партызанамі *Магілеўскага партызанскага злучэння*, якія разграмілі сістэму гарнізонаў ворага ў напрамку магчымага наступлення Чырв. Арміі. 19.9.1943 партызаны з дапамогай насельніцтва Бела-

Да арт **Вялікая Айчынная вайна 1941—45.** Партызаны 37-й партызанскай брыгады імя А Я Пархоменкі разбураюць чыгунку 1943

Да арт **Вялікая Айчынная вайна 1941—45.** Млын з конным прыводам у брыгадзе імя Чкалава Баранавіцкай вобласці

русі пачалі новы этап «рэйкавай вайны» пад кодавай назвай *«Канцэрт»*, які быў скаардынаваны з дзеяннямі Чырв. Арміі. Войскі Калінінскага фронту, наступаючы на віцебскім напрамку, да 30.9.1943 выйшлі да паўн.-ўсх. межаў Беларусі на рубяжах Усвяты, Савосце, Панізоўе, Рудня. Войскі Бранскага і Зах. франтоў вызвалілі райцэнтры Хоцімск, Касцюковічы, Клімавічы, Чэрыкаў, Крычаў, Мсціслаў, 2.10.1943 прарваліся да нас. пунктаў Дрыбін, Леніна, Горкі. У выніку *Бранскай аперацыі 1943* і Смаленскай сав. войскі выйшлі на подступы да Віцебска, Оршы, Магілева. Значную дапамогу Чырв. Арміі аказалі партызаны ў час Невельскай аперацыі (6—10.10. 1943) і *Гарадоцкай аперацыі 1943.* Нават пралікі ЦШПР у планаванні і правядзенні *Лепельскай аперацыі 1943* (а яны дорага абышліся партызанам), не змяншаюць той падтрымкі, што аказалі партызаны войскам, якія наступалі на Невель і Гарадок. Разбураючы камунікацыі ворага, партызаны істотна дапамаглі Цэнтр. фронту (з 20.10.1943 Бел. фронт) у правядзенні *Чарнігаўска-Прыпяцкай аперацыі 1943* і *Гомельска-Рэчыцкай аперацыі 1943,* у выніку якіх 26 ліст. вызвалены Гомель. Паводле рашэння ЦК КП(б)Б і БШПР партыз. фарміраванні з Віцебскай, Гомельскай, Магілёўскай і Мінскай абл. на працягу восені — зімы 1943—44 перадыслацыраваліся на З, куды перамясціліся тылы групы армій «Цэнтр». Фаш. камандаванне правяло серыю спусташальных карных аперацый амаль на ўсёй акупіраванай тэр. Беларусі. У студз.— ліп. 1944 у выніку 9 буйных карных аперацый было захоплена для адпраўкі ў Германію і на абарончыя работы больш за 34,6 тыс. чал., забіта каля 8,5 тыс. чал., у насельніцтва забрана каля 6 тыс. галоў жывёлы. Супраць партызан, што яшчэ не злучыліся з Чырв. Арміяй, было дадаткова кінута 5 пях. і 1 авіяц. дывізіі, 3 пях., танк. і грэнадзёрскі палкі, 2-і венгерскі каралеўскі корпус, 3 карныя батальёны. Цяжкія страты бел. партызан тлумачацца не толькі пераважаючымі на карысць гітлераўцаў суадносінамі сіл, але і ваенным пралікам ЦШПР, які двойчы паставіў партызан і насельніцтва Полацка-Лепельскай і суседніх зон у бязвыхаднае становішча напярэдадні карнай аперацыі *«Веснавое свята»* (гл. *Полацка-Лепельская бітва 1944*).

23.6.1944 пачалася *Беларуская аперацыя 1944* пад кодавай назвай «Баграціён». У прарыве глыбокаэшаланіраванай абароны праціўніка («Фатэрлянд») і разгроме групы армій «Цэнтр» на Беларусі ўдзельнічалі 4 франты Чырв. Арміі: 1-ы Прыбалтыйскі фронт (ген. арміі І. Х. Баграмян), 3-і Бел. (ген.-палк. І. Д. Чарняхоўскі), 2-і Бел. (ген.-палк. Г. Ф. Захараў), 1-ы Бел. (ген. арміі К. К. Ракасоўскі), якія мелі 2,4 млн. чал., больш за 36 тыс. гармат і мінаметаў, 5,2 тыс. танкаў, 5,3 тыс. самалётаў супраць 1,2 млн. салдат, 9,5 тыс. гармат і мінамётаў, 900 танкаў і штурмавых гармат, 1,4 тыс. самалётаў праціўніка. Асноўнымі этапамі аперацыі «Баграціён», што працягвалася больш за месяц, былі *Віцебскі «кацёл», Бабруйскі «кацёл», Люблін-Брэсцкая аперацыя 1944.* 26.6.1944 вызвалены Віцебск, 27 чэрв.— Орша, 28 — Магілёў, 29 — Бабруйск, 3 ліп.— Мінск, 28 — Брэст. Разам з Чырв. Арміяй гарады і вёскі вызвалялі партызаны. Яны ўтрымлівалі да падыходу сав. войск Узду, Старобін, Рудзенск, Кура-нец, Свір, Відзы, Любчу, Астравец, удзельнічалі ў вызваленні 20 райцэнтраў Беларусі і Мінска.

Беларусь у вайне страціла больш за палавіну свайго нацыянальнага багацця. Сума матэрыяльных страт склала 75 млрд. руб. (у цэнах 1941 года). Было разбурана і спалена 209 гарадоў і раённых цэнтраў (з 270), 9200 вёсак, разбурана 100 465 прадпрыемстваў, больш за 6 тыс. км чыгункі, разрабавана 10 тыс.

Да арт. **Вялікая Айчынная вайна 1941—45.** Клятва салдата-беларуса пры ўступленні на беларускую зямлю. Станцыя Крынкі Лезненскага р-на. Кастрычнік 1943.

Да арт. **Вялікая Айчынная вайна 1941—45.** Вулічныя баі ў Віцебску. 26.6.1944.

Да арт. **Вялікая Айчынная вайна 1941—45.** Манумент у гонар маці-патрыёткі ў г. Жодзіна Смалявіцкага р-на.

калгасаў, 92 саўгасы, 316 МТС, знішчаны 420 996 дамоў калгаснікаў, амаль усе электрастанцыі; вывезена ў Германію 90 % станочнага і тэхнічнага абсталявання, каля 96 % энергетычных магутнасцей, каля 18,5 тыс. аўтамашын, больш за 9 тыс. трактароў і цягачоў, тысячы кубаметраў драўніны, пиламатэрыялаў, высечаны сотні тыс. гектараў лесу, садоў і г. д. Да лета 1944 на Беларусі засталося толькі 39 % перадваеннай колькасці коней, 31 % буйной рагатай жывёлы, 11 % свіней, 22 % авечак і коз. Вораг знішчыў тысячы ўстаноў асветы, аховы здароўя, навукі і культуры, у т. л. 8825 (з 12 294) школ, усе н.-д. цэнтры, АН БССР, 219 бібліятэк, 5425 музеяў, тэатраў і клубаў, 2187 бальніц і амбулаторый, 2651 дзіцячую ўстанову. Самымі цяжкімі былі людскія страты: загінула больш за 2,2 млн. чал. (кожны чацвёрты). На катаржныя работы ў фаш. Германію было вывезена 380 тыс. чал.

У абароне Беларусі ў 1941 удзельнічалі воіны васьмі армій Зах. (Цэнтр.) фронту, у яе вызваленні 2 млн. 400 тыс. салдат і афіцэраў 1-га, 2-га, 3-га Бел. і 1-га Прыбалт. франтоў, 440 тыс. партызан і падпольшчыкаў. У выніку Бел. аперацыі 1944 была поўнасцю вызвалена Беларусь, большая частка Літвы, частка Латвіі, усх. раёны Польшчы; Чырв. Армія прасунулася ўглыб на 550—600 км і падышла да граніц Усх. Прусіі. У ходзе аперацыі сав. войскі разграмілі ням. групу армій «Цэнтр», поўнасцю знішчылі 17 дывізій і 3 брыгады, 50 дывізій страцілі больш за палавіну свайго складу. Разгром ням.-фаш. войск на тэр. Беларусі стварыў спрыяльныя ўмовы для наступальных аперацый, у выніку якіх у 2-й пал. 1944 уся тэр. Сав. Саюза была вызвалена ад ворага. За вызваленне Беларусі больш як 1600 воінам прысвоена званне Героя Сав. Саюза. У студз. 1945 сав. войскі распачалі наступленне на фронце ад Балтыйскага мора да Карпат, каб канчаткова разграміць ням. армію і разам з саюзнікамі прымусіць фаш. Германію да капітуляцыі. У выніку Берлінскай аперацыі 1945 сав. войскі акружылі і разграмілі берлінскую групоўку, 30 крас. ўварваліся ў рэйхстаг і ўзнялі Сцяг Перамогі. 8.5. 1945 Германія падпісала Акт пра безагаворачную капітуляцыю.

*Літ.:* Андрющенко Н. К. На земле Белоруссии летом 1941 г. Мн., 1985; Батов П. И. В походах и боях. 4 изд. М., 1984; Беларусь у Вялікай Айчыннай вайне, 1941—1945: Энцыкл. Мн., 1990; Буг в огне. 3 изд. Мн., 1977; В боях за Белоруссию. 2 изд. Мн., 1974; В непокоренном Минске: Документы и материалы о подпол. борьбе сов. патриотов в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941—июль 1944). Мн., 1987; Всенародная борьба в Белоруссии против немецко-фашистских захватчиков в годы Великой Отечественной войны. Т. 1—3. Мн., 1983—85; Всенародное партизанское движение в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1945): Документы и материалы. Т. 1—3. Мн., 1967—82; Горбатов А. В. Годы и войны. М., 1965; Документы к истории Западного — 3-го Белорусского фронта, 1941—1945. [Каунас], 1946; Жуков Г. К. Воспоминания и размышления. Т. 1—3. 10 изд. М., 1990; Крылов Н. И. На главном направлении // Освобождение Белоруссии, 1944. 2 изд. М., 1974; Лобанок В. Е. Всенародная борьба в тылу врага. Мн., 1985; Навечно в сердце народном. 3 изд. Мн., 1984; Нацистская политика геноцида и «выжженной земли» в Белоруссии, 1941—1944. Мн., 1984; Нічога не забудзем, нічога не даруем. Дакументы аб зверствах ням. акупантаў на Беларусі. Мн., 1943; Освобождение Белоруссии, 1944. 2 изд. М., 1974; Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941—июль 1944): Краткие сведения об орг. структуре партиз. соединений, бригад (полков), отрядов (батальонов) и их личном составе. Мн., 1983; Подвиги их бессмертны. О подпол. борьбе сов. людей в захваченных фашистскими оккупантами городах и селах Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944). Мн., 1978; Преступления немецко-фашистских оккупантов в Белоруссии, 1941—1944. [Документы и

Да арт. **Вялікая Айчынная вайна 1941—45.** Манумент Перамогі ў Мінску.

матэрыялы] 2 изд Мн, 1965, Судебный процесс по делу о злодеяниях, совершенных немецко-фашистскими захватчиками в Белорусской ССР (15—29 января 1946 года) Мн, 1947, Партийное подполье в Белоруссии, 1941—1944 Страницы воспоминании Вилейская, Барановичская, Пинская, Брестская, Белостокская обл Мн, 1986, Партийное подполье в Белоруссии, 1941—1944 Страницы воспоминаний Витебская, Могилевская, Гомельская, Полесская обл Мн 1985, Партийное подполье в Белорусссии 1941—1944 Страницы воспоминаний Минская обл. и Минск Мн, 1984, Старонкі ваеннай гісторыі Беларусі Вып 1 Мн, 1992 Гуронак Ю Беларусь пад нямецкай акупацыяй Пер з пол Мн, 1993, Беларуская ССР у Вялікай Айчыннай вайне Савецкага Саюза (1941—1945 гг) Бібліягр паказ [Ч 1—2] Мн, 1980—90

*У С Пасэ*

**«ВЯЛІ́КАЯ АРМІЯ»** (франц. Grande Armee), афіцыйная назва ў 1805—14 і 1815 французскай арміі на галоўным тэатры ваенных дзеянняў пад асабістым камандаваннем *Напалеона I.* Створана 2 1 1812 у ходзе падрыхтоўкі да вайны супраць Расіі (гл. *Айчынная вайна 1812*) з войск былой «Германскай арміі» маршала Л. Н Даву (абсервацыйныя карпусы 1-ы і 2-і Эльбскія, Узбярэжжа Акіяна, Італьянскі; усяго 15 пях. дывізій і 13 кав. брыгад) і трох нанава сфарміраваных кав. карпусоў (6 дывізій). У сак 1812 абсервацыйныя карпусы атрымалі нумары адпаведна з 1-га па 4-ы, былі сфарміраваны 4 новыя карпусы (з 5-га па 8-ы) з войск Варшаўскага герцагства і Рэйнскага саюза, 4-ы кав корпус і яшчэ 15 кав брыгад для ўзмацнення агульнавайсковых і кав. карпусоў. Агульны рэзерв склала імператарская гвардыя. У крас.— чэрв 1812 да «В. а.» прыдадзены 9-ы (рэзервовы, з дывізій аховы тылу і ўзбярэжжа ў Паўн. Германіі) і 10-ы (гал. ч з прускіх войск) карпусы.

Да пач. вайны «В. а.» складалася з вышэйшага камандавання — Напалеон, нач. Гал. штаба маршал А. Берт'е, камандуючы рэзервовай кавалерыяй маршал Ж. Мюрат, камандуючы артылерыяй ген. Ж. А. Ларыбуасьер, камандуючы інж. войскамі ген. Ф. Шаслу-Лаба, генеральны інтэндант ген. М. Дзюма; агульнавайсковых карпусоў — імператарская гвардыя (камандуючы асабіста Напалеон), 1-ы (Даву), 2-і (маршал Н Ш Удзіно), 3-і (маршал М Ней), 4-ы (віцэ-кароль Італіі Э. Багарнэ), 5-ы (ген Ю. Панятоўскі), 6-ы (ген Л Гув'ен Сен-Сір), 7-ы (ген. Ж Л. Э Рэнье), 8-ы (намінальна кароль Вестфаліі Жэром Банапарт, фактычна ген. Д. Ж. Р. Вандам), 9-ы (маршал К Віктор), 10-ы (маршал Ж. Э. Ж. А. Макданальд); карпусоў рэзервовай кавалерыі — 1-ы (ген. Э. М. А. Нансуці), 2-і (ген. А. Манбрэн), 3-і (ген Э Грушы), 4-ы (ген М В. Н. Латур-Мабур). У чэрв.-ліп. 1812 сфарміраваны ў асн. з навабранцаў рэзервовы 11-ы корпус маршала П Ф. Ш. Ажэро. Аўстрыйскі корпус ген. К. Ф Шварцэнберга (у л-ры часам наз. 12-ы) у «В. а.» фармальна не ўваходзіў і не атрымаў агульнаармейскай карпуснай і дывізіённай нумарацыі. «В. а.» складалася з 40 пях. і 14 кав. дывізій, 20 асобных кав брыгад, больш як 100 артыл батарэй (усяго каля 620 тыс. чал., у т. л. амаль *575* тыс у страі; каля 150 тыс коней; 1372 гарматы). У 1812 была шматнацыянальнай: французаў каля 370 тыс чал., астатні кантынгент складалі немцы, палякі, італьянцы, швейцарцы, славенцы, іспанцы, партугальцы і інш. З пачаткам ваен. дзеянняў выявіліся значныя цяжкасці ў арганізацыі харчовага забеспячэння арміі, што прывяло да росту захворванняў і смяротнасці, зніжэння дысцыпліны, да марадзерства і дэзерцірства, асабліва ў войсках Рэйнскага саюза. Абмежаванасць фуражных запасаў і немагчымасць падножнага ўтрымання вял. колькасці коней выклікала іх масавы паморак, неабходнасць адцягнення многіх кавалерыстаў на фуражыроўку, стварэння каманд па нарыхтоўцы сена і інш. На працягу вайны «В а.» атрымала каля 110 тыс. чал. падмацавання (маршавае папаўненне, тылавыя часці, польскі зводны атрад ген. А. Касінскага). У вер — кастр. 1812 на тэр. Расіі былі ўведзены войскі 2-га стратэгічнага эшалона — 9-ы корпус і 2 дывізіі 11-га корпуса. Вялася работа па фарміраванні вайсковых часцей з жыхароў Літвы і Беларусі (гл. *Літоўскае войска 1812*), якія, аднак, на баланс і ход баявых дзеянняў істотна не паўплывалі Вял. страты ў жн.— вер. 1812 і катастрафічны рост агульных страт у час адступлення сталі прычынамі шэрага арганізац. змен. Пасля Барадзінскай бітвы 26.8(7.9).1812 кав. карпусы былі зведзены ў адзін, пры адступленні ад Малаяраслаўца да Смаленска была фактычна страчана карпусная структура, у Оршы ўся кавалерыя гал групоўкі зведзена ў адзін эскадрон 23 11(5.12). 1812 Напалеон пакінуў рэшткі арміі, камандаванне якой перайшло да Мюрата, а з 12(24) 1.1813 да Багарнэ У студз 1813 колькасць баяздольных войск «В а» (разам з корпусам Шварцэнберга) не перавышала 50—60 тыс. чал. Дэкрэтам Напалеона ад 12 3 1813 былі вызначаны новыя склад і арганізацыя «В а» для працягу вайны ў Германіі.

*Літ* Павленко Н Гибель «великой армии» // Военно ист журн 1962 № 11, Fieffe E Histoire des troupes étrangeres au service de France Paris 1854, Blond G La Grande Armee, 1804—1815 Paris, 1979 *В В Антонаў*

**ВЯЛІ́КАЯ БЕЛАРУ́СКАЯ РА́ДА**, ВБР, каардынацыйны цэнтр беларускага нацыянальна-вызваленчага руху ў кастр.-снеж 1917. Утворана на 2-й сесіі *Цэнтральнай Рады беларускіх арганізацый* [15(28) 10—24.10(6.11).1917, Мінск] шляхам рэарганізацыі апошняй. Складалася з дэлегатаў ад бел. грамадска-паліт., культурна-асв., бежанскіх, вайск. арг-цый. Размяшчалася ў Мінску ў б. губернатарскім доме (пл. Свабоды). Пастаянна дзеючым органам ВБР быў выканаўчы к-т з 24 чал., у т. л. В. А. Адамовіч (старшыня), А. У. Прушынскі (Алесь Гарун) і А. А. Смоліч (намеснікі старшыні), Л. А. Сівіцкая (Зоська Верас) і А. Сакалоўскі (сакратары), С. А. Рак-Міхайлоўскі, І. С. Дварчанін, А. М. Уласаў, Э. Будзька, М. Шыла, П. А. Бадунова, В. Захарка, А І. Лявіцкі (Ядвігін Ш.), Я. Мамонька, П. П. Аляксюк і інш Выканаўчы к-т падзяляўся на аддзелы ў адпаведнасці з галінамі кіравання. У кантакце з ім працавалі 9 генеральных камісараў Рады Я. Я. Варонка (камісар юстыцыі і ўнутр. спраў), Б. А. Тарашкевіч (асветы), З. Х. Жылуновіч (працы і харчавання), В. С. Сталыга (грашовых спраў, промыслу і гандлю), Г В Багдановіч (бежанскіх спраў), Я. Л. Дыла (камісар у Маскве), І. І. Краскоўскі (камісар у Кіеве) і інш Выканаўчы к-т разам з камісарам ўтваралі Малую раду («Савет 33-х»). ВБР мела на мэце дасягненне аўтаноміі Беларусі ў межах Расійскай дэмакр. федэратыўнай рэспублікі, развіццё нац. культуры і мовы. Разглядала сябе як зародак вышэйшага органа дзярж. улады будучай аўтаномнай Беларусі, у сувязі з чым меркавала ўключыць у свой склад прадстаўнікоў ад гар. дум, павятовых і валасных земстваў, а таксама ад нац. меншасцей краю (велікаросаў, палякаў, яўрэяў, татар і інш.) У сувязі з Кастр. ўзбр. паўстаннем 1917 ВБР разам з *Цэнтральнай Беларускай вайсковай радай,* Беларускай сацыялістычнай грамадой і інш. нац арг-цыямі 27.10(9.11).1917 звярнулася з «Граматай да беларускага народа», у якой характарызавала паўстанне як праяву анархіі і заклікала народ згуртавацца вакол сябе, не выконваць «сеючыя нязгоду поклічы», захоўваць парадак і спакой. Для абароны краю ад бязладдзя і анархіі, забеспячэння непадзельнасці Беларусі ВБР разам з Цэнтр. Бел вайсковай радай вяла работу па стварэнні бел нац войска. Дамагалася адкрыцця на Беларусі універсітэта, увядзення ў праграмы пед навуч установ, што рыхтавалі настаўнікаў для краю, курсаў бел. л-ры і мовы, нац фальклору, гісторыі і геаграфіі Беларусі. Выступіла з ініцыятывай і разам з *Беларускім абласным камітэтам* склікала ў Мінску *Усебеларускі з'езд 1917,* пасля роспуску якога функцыі цэнтр. органа нац руху перайшлі да Рады з'езда. *С С Рудовіч*

**ВЯЛІ́КАЯ БЕРАСТАВІ́ЦА**, гарадскі пасёлак, цэнтр Бераставіцкага раена, на р Бераставічанка (бас. Немана). За 63 км на Пд ад Гродна, 8 км ад чыг ст. Бераставіца, на аўтамаб. дарозе Гродна — Пагранічны 7 тыс ж (1992)

У пач. 16 ст. уладанне ваяводы навагрудскага Аляксандра Іванавіча Хадкевіча, атрыманае ад вял. князя ВКЛ і караля Польшчы Аляксандра. З 2-й пал. 17 ст. уласнасць Мнішкаў, з апошняй чвэрці 18 ст. належала Патоцкім, пасля — Касакоўскім. На карце Т. Макоўскага (1613) пазначана як мястэчка Гродзенскага пав. Афіцыйна мястэчкам стала паводле прывілея 1725 караля Рэчы Паспалітай Аўгуста II. З 1795 у складзе Расійскай імперыі, мястэчка Гродзенскага пав. У сярэдзіне 19 ст. 179 будынкаў, 1037 жыхароў, царква, касцел, прыходская

школа, 2 млыны, 3 гарбарныя заводы, 15 крам. Жыхары мястэчка ўдзельнічалі ў паўстанні 1863—64. У 1900 — 1786 жыхароў, 396 будынкаў (229 жылых), 2 фарбавальні. Напярэдадні 1-й сусв. вайны — 2516 жыхароў, 6 дробных прадпрыемстваў. У час 1-й сусв. вайны акупіравана герм. войскамі, у 1919—20 вёску займалі войскі Польшчы і Чырв. Арміі. З 1921 у складзе Польшчы, мястэчка, цэнтр гміны Гродзенскага пав. Беластоцкага ваяводства. З 1939 у складзе БССР, вёска ў Крынкаўскім р-не. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 па 17.7.1944 акупіравана ням.-фаш. войскам. З 20.9. 1944 цэнтр раёна, з 1947 гарадскі пасёлак. У 1962—66 В. Б. ўваходзіла ў Свіслацкі р-н. У 1969 было 2,9 тыс. жыхароў. Працуюць птушкафабрыка, маслазавод, хлебазавод, каўбасны цэх. У В. Б. СПТУ механізацыі сельскай гаспадаркі, сярэдняя, музычная і дзіцяча-юнацкая спартыўная школы, 2 дашкольныя ўстановы, Дом піянераў і школьнікаў, Дом культуры, кінатэатр, 2 бібліятэкі, бальніца. Выдаецца «Бераставіцкая газета». Помнікі У. І. Леніну, С. В. Прытыцкаму. Брацкая магіла сав. воінаў і партызан, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. Помнікі архітэктуры: касцёл кармелітаў (17 ст.), заезны двор, Мікалаеўская царква (2-я пал. 19 ст.), касцёл (1910). *В. У. Шаблюк.*

**ВЯЛІКАЯ ВАЙНА 1409—11,** вайна ВКЛ і Польскага каралеўства супраць Тэўтонскага ордэна. ВКЛ імкнулася вярнуць захопленую ордэнам Жамойць, Польскае каралеўства — Памор'е і марк-графства Новую Марку, пакінуць за сабой Добжынскую зямлю; абедзве дзяржавы хацелі разграміць узброеныя сілы ордэна. Крыжакі імкнуліся замацаваць за сабой гэтыя землі, асабліва Жамойць, якая злучала паморска-прускія і лівонскія ўладанні ордэна. Вайне папярэднічала актыўная дыпламатычная дзейнасць. Ордэн, ахвяраваўшы буйныя грашовыя сумы, заручыўся падтрымкай чэшскага караля Вацлава і венгерскага караля Жыгімонта. ВКЛ 14.9.1408 заключыла мір з Маскоўскім вял. княствам і забяспечыла сабе тыл. Крыжакі і саюзнікі праводзілі прапагандысцкую кампанію і вербавалі наймітаў па ўсей Еўропе. 31.5.1409 у Жамойці выбухнула паўстанне супраць ордэна, неафіцыйна падтрыманае вял. князем ВКЛ Вітаўтам. Ваенныя дзеянні пачаліся 16.8.1409, калі войскі ордэна напалі на польскія гарнізоны ў Добжынскай зямлі. У час ваеннай кампаніі 1409 крыжакі захапілі Добжынскую зямлю, у Новай Марцы разбілі паспалітае рушэнне, войскі ВКЛ уступілі ў Жамойць і выгналі адтуль ворага, палякі вярнулі Быдгашч. 8.10.1409 Польшча пры пасрэдніцтве караля Вацлава заключыла з ордэнам перамір'е «да заходу сонца» 24.6.1410, паводле якога абодва бакі захоўвалі ўладанні на час падпісання пагаднення, палякі абавязваліся не дапамагаць жмудзінам і іх саюзнікам. Перамір'е не тычылася ВКЛ, аднак ордэн актыўных дзеянняў супраць княства не пачаў. 8—9.12. 1409 у Брэсце адбылася канспіратыўная нарада, на якой польскі кароль Ягайла і Вітаўт разгледзелі і ўзгаднілі стратэгічна-тактычныя пытанні летняй кампаніі 1410 (гл. *Берасцейская сустрэча 1409*). У маі 1410 ордэн заключыў перамір'е з ВКЛ да 24 чэрв. Вітаўту ўдалося да канца лета нейтралізаваць войскі лівонскай філіі ордэна, што значна паўплывала на ход ваенных дзеянняў (лівонскія войскі з'явіліся на прускім тэатры вайны толькі ў канцы жніўня). Паказаўшы сябе выдатнымі военачальнікамі, Ягайла і Вітаўт шляхам шматлікіх перамяшчэнняў увялі ворага ў зман, прымусілі ордэн рыхтавацца да нападу з розных бакоў і вылучыць значныя сілы на абарону межаў у розных месцах. Войскі саюзнікаў рушылі на сталіцу ордэна Мальбарк, прымусілі крыжакоў даць генеральную бітву, у выніку якой армія ордэна пацярпела поўнае паражэнне (гл. *Грунвальдская бітва 1410*). Ордэнская дзяржава выратавалася толькі дзякуючы рашучым дзеянням комтура Генрыха фон Плаўэна, які здолеў апярэдзіць саюзнікаў, першы дабраўся да сталіцы і арганізаваў яе абарону. Аблога Мальбарка (25.7—19.9.1410) скончылася беспаспяхова. Ваенныя дзеянні працягваліся з перапынкамі на перамір'е. В. в. закончылася *Тарунскім мірам 1411*, паводле якога ўсе гарады і замкі, захопленыя ў час вайны, вярталіся ўладальнікам, Жамойць перадавалася ВКЛ, а пасля смерці Вітаўта — ордэну, Добжынская зямля пакідалася за Польшчай. Перамога саюзнікаў у вайне падарвала магутнасць Тэўтонскага ордэна і спыніла яго агрэсію на ўсходзе.

*Літ.:* Длугош Я. Грюнвальдская битва. М.; Л., 1962; Kuczyński S. M. Wielka wojna z Zakonem Krzyżackim w latach 1409—1411. 2 wyd. Warszawa, 1960. *А. К. Краўцэвіч.*

Паведамленне **Вялікай Беларускай Рады** аб скліканні Усебеларускага з'езда. 1917. Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь.

**ВЯЛІ́КАЯ КАСТРЫ́ЧНІЦКАЯ САЦЫЯЛІСТЫ́ЧНАЯ РЭВАЛЮ́ЦЫЯ** 1917, гл. *Кастрычніцкая рэвалюцыя 1917*

**«ВЯЛІ́КАЯ КАСТРЫ́ЧНІЦКАЯ САЦЫЯЛІСТЫ́ЧНАЯ РЭВАЛЮ́ЦЫЯ»,** зборнікі дакументаў і матэрыялаў па гісторыі Расіі ад Лютаўскай бурж.-дэмакр. рэвалюцыі 1917 да лютага 1918. Выдадзены ў 10 кнігах (кожная пад сваёй назвай) у 1957—63 у Маскве на рус мове Ін-там гісторыі АН СССР, Ін-там марксізму-ленінізму пры ЦК КПСС і Гал. архіўным упраўленнем пры СМ СССР. Дакументы (больш за 7 тыс.) размешчаны ў кнігах па тэматычных раздзелах, а ўнутры раздзелаў — у храналагічным парадку. Значная частка дакументаў з фондаў цэнтр. і мясцовых парт і дзярж архіваў, перыядычных выданняў таго часу публікавалася ўпершыню Больш за 100 дакументаў выяўлены ў парт. архівах ЦК КПБ, ЦДАКР Беларусі, дзярж архівах Віцебскай, Мінскай, Магілеўскай абл., у газ «Бобруйский курьер», «Буревестник», «Звезда», «Известия Минского Совета рабочих и солдатских депутатов», «Молот», «Оршанский вестник», «Фронт» і інш Яны асвятляюць рэв. падзеі на Беларусі — бальшавізацыю Саветаў, узмацненне сялянскага, рабочага, антываен руху, стварэнне і дзейнасць нац. арг-цый і інш. Значнае месца займаюць дакументы, якія характарызуюць стварэнне і дзейнасць Паўн.-Зах. абласной арг-цыі РСДРП(б) увосень 1917. 78 дакументаў апошняга тома «Трыумфальнае шэсце Савецкай улады» (ч. 2) асвятляюць працэс пераходу ўлады да Саветаў ва ўсіх буйных гарадах і нас пунктах Беларусі, стварэнне і дзейнасць ВРК у Мінску, Віцебску, Гомелі, Магілеве, Оршы, барацьбу бальшавікоў з «камітэтам выратавання радзімы і рэвалюцыі», з прадстаўнікамі партый у Саветах і інш. Большасць з гэтых дакументаў раней была змешчана ў зб. *«Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя на Беларусі»* (т. 1—2, 1957), «З гісторыі ўстанаўлення Савецкай улады на Беларусі і ўтварэння БССР» (т 4, 1954) і інш. Выданне мае паказальнікі імянны, геагр., прамысл. прадпрыемстваў, устаноў, арг-цый і вайсковых часцей.

*М Ф Шумейка*

**«ВЯЛІ́КАЯ КАСТРЫ́ЧНІЦКАЯ САЦЫЯЛІСТЫ́ЧНАЯ РЭВАЛЮ́ЦЫЯ НА БЕЛАРУ́СІ»,** «Великая Октябрьская социалистическая революция в Белоруссии», зборнік дакументаў і матэрыялаў па гісторыі Кастр рэвалюцыі на Беларусі з лют. 1917 па сак. 1918 (т. 1—2. Мн., 1957). Падрыхтаваны Ін-там гісторыі партыі пры ЦК КПБ, Ін-там гісторыі АН БССР і Архіўным упраўленнем БССР. Змяшчае 1517 дакументаў, якія захоўваліся ў Архіве Ін-та марксізму-ленінізму пры ЦК КПСС, Парт. архіве ЦК КПБ, Цэнтр дзярж. архіве Кастр. рэвалюцыі і сацыяліст. будаўніцтва СССР (ЦДАКР СССР), Цэнтр. дзярж. архіве Чырв. Арміі (ЦДАЧА), Цэнтр. дзярж. ваеннагіст. архіве (ЦДВГА), Цэнтр. дзярж. архіве Кастр. рэвалюцыі і сацыяліст. будаўніцтва БССР (ЦДАКР БССР), Цэнтр. дзярж. гіст архіве БССР (ЦДГА БССР), дзярж. архівах Віцебскай, Мінскай, Магілеўскай абл. Выкарыстаны таксама перыяд. выданні, якія захоўваліся ў архівах і дзярж. б-ках Масквы, С.-Пецярбурга і Мінска. Уключаны і найб. цікавыя дакументы, апублікаваныя ў зб. «Кастрычнік на Беларусі» (вып. 1, 1927) і «З гісторыі ўстанаўлення Савецкай улады на Беларусі і ўтварэння БССР» (т. 4, 1954) Дакументы 1-га тома згрупаваны ў 2 раздзелы і храналагічна ахопліваюць перыяд ад Лютаўскай рэвалюцыі да Кастрычніцкай рэвалюцыі (люты — кастрычнік 1917). Яны адлюстроўваюць найважнейшыя падзеі, звязаныя са звяржэннем самадзяржаўя на Беларусі і на Зах. фронце, стварэннем і дзейнасцю мясц. Саветаў, сац.-дэмакр арг-цый і груп. Шмат увагі адведзена Мінскай гар міліцыі, якую ўзначальваў М. В. Фрунзе. Апублікаваны пратаколы I Паўн.-Зах. абл канферэнцыі РСДРП(б) (вер. 1917), якая завяршыла афармленне абл. парт. арг-цыі на Беларусі; рэзалюцыі II Паўн.-Зах абл. канферэнцыі РСДРП(б) аб пераглядзе парт. праграмы (кастр. 1917). Дакументы тома расказваюць пра аграрныя выступленні сялян, барацьбу супраць карнілаўшчыны У 2-і том увайшлі дакументы і матэрыялы перыяду перамогі Кастрычніцкай рэвалюцыі і ўмацавання сав. улады на Беларусі да акупацыі яе тэрыторыі кайзераўскімі войскамі, т. зв. 100 дзен сав улады на Беларусі (кастр. 1917 — сак 1918) Дакументы пераважна раскрываюць працэс фарміравання органаў дзярж. улады і дзярж. кіравання ў Заходняй вобл. і на фронце, іх узаемаадносіны з нац. арг-цыямі. Ёсць матэрыялы пра мірныя перагаворы ў Брэсце, пра барацьбу супраць легіянераў Доўбар-Мусніцкага і герм. войск. У томе змешчаны рэзалюцыі III Надзвычайнай Паўн.-Зах. абл. і франтавой канферэнцый РСДРП(б) (снеж. 1917). У пач. кожнага тома змешчаны працы У. І. Леніна, пастановы Камуніст партыі, дэкрэты сав. ўрада. У канцы тома змешчаны храналагічны, прадметны, імянны і геагр. паказальнікі, заўвагі У зборніку недастаткова адлюстравана гісторыя нац. руху; дакументы аб стварэнні і дзейнасці *Беларускага нацыянальнага камітэта,* правядзенні Усебел з'езда (снеж. 1917) і інш. Многія дакументы публікуюцца з купюрамі.

*М Ф Шумейка*

Касцел кармелітаў у Вялікай Бераставіцы.

**«ВЯЛІ́КАЯ ХРОНІКА»,** «Летопис, то ест Кройника великая з розных многих кройникаров диалектом русским написана», «Летописец, то есть Кройника великая з розных многих а досветчоных авторов и историков диалектом руским ест зложона», беларуска-ўкраінскі хранограф эпохі *барока,* своеасаблівая гіст. энцыклапедыя свайго часу, першая сур'езная спроба выкладу сусв гісторыі на старабел. мове Укладзена ў 1-й пал 17 ст. Месца ўзнікнення дакладна невядома Ранняя рэдакцыя помніка, найбольш верагодна, бел. паходжання, больш позняя — украінскага. «В. х.» мае кампілятыўны характар, вылучаецца надзвычай шырокім храналагічным і геаграфічным ахопам падзей Паводле жанравай структуры — звод гіст. аповесцей, апавяданняў і пагадовых запісаў. Асноўны змест хранографа — гісторыя многіх краін і народаў, выкладзеная на падставе самых розных гісторыка-літ. крыніц Складаецца з 3 асн. частак «Хронікі ўсяго свету», *«Хронікі славянарускай»* («Хронікі славян») і *«Хронікі літоўскай і жамойцкай».* 1-я частка грунтуецца пераважна на хроніцы аднайменнай назвы польскага гісторыка М. *Бельскага* і апісвае далекую мінуўшчыну чалавецтва ад «стварэння свету» да часоў Карла Вялікага ўключна.

Значнае месца ў ей займае гісторыя стараж Грэцыі, Рыма, Блізкага Усходу і Візантыі, а таксама біблейская гісторыя, зусім сцісла асветлена гіст. мінулае Зах. Еўропы 1-га тысячагоддзя н. э «Хроніка славянаруская» прысвечана пераважна гісторыі Стараж Русі ад заснавання Кіева да 1480, якой папярэднічаюць у творы беглы агляд біблейскай гісторыі і розныя артыкулы пра паходжанне славян і русаў Асноўнай крыніцай гэтай часткі была *«Хроніка польская, літоўская, жамойцкая і ўсяе Русі»* М. Стрыйкоўскага, які выклаў даўнюю гісторыю ўсх славян паводле прац Я. Длугаша, М. Мяхоўскага, М Кромера, С. Герберштэйна і стараж.-рус. летапісаў. Адзін з раздзелаў «Хронікі славянарускай» называецца «Хроніка Белай і Чорнай Русі». На «Хроніцы» Стрыйкоўскага грунтуецца і 3-я частка «В. х.» — «Хроніка літоўская і жамойцкая», прысвечаная гісторыі ВКЛ ад легендарнага кн. Палемона да 1588 Дадатковымі крыніцамі паслужылі *Хроніка Еўрапейскай Сарматыі* і літоўска-бел. летапіс тыпу *Хронікі Быхаўца* Гісторыя стараж Русі, Беларусі, Украіны, Літвы і часткова Расіі і Польшчы

падаецца ў «В х.» ў сувязі з найбольш яркімі старонкамі мінуўшчыны іншых краін і народаў як арганічная і важкая частка сусв. гісторыі. У творы сцвярджаецца ідэя адзінства паходжання і гісторыі ўсяго чалавецтва, раскрываецца багацце, значнасць і веліч гераічнага мінулага славянскіх народаў, якое падаецца з патрыятычных пазіцый. Энцыклапедычны характар зместу хранографа сведчыць аб вял. цікаўнасці бел. і ўкр. грамадства 17 ст. да зарубежнай і айчыннай гісторыі, шырыні поглядаў тагачасных чытачоў, а таксама аб багацці і разнастайнасці гісторыка-літ. твораў, што бытавалі ў эпоху барока на бел і ўкр. землях. Апрача дакладных звестак пра сапраўдныя гіст падзеі «В. х.» змяшчае шмат міфаў, легенд, паданняў і літ апрацовак, у т. л. аповесці пра Траянскую вайну, Аляксандра Македонскага (гл *«Александрыя»*), Кулікоўскую бітву і інш. У ей спалучана дакументальна-фактаграфічнае апісанне мінуўшчыны з мастацка-паэтычным яе адлюстраваннем «В х» — важны этап у гісторыі бел. л-ры і гістарыяграфіі, своеасаблівы пераходны мост ад традыцыйных летапісаў і хронік да твораў гіст. белетрыстыкі ў яе сенняшнім разуменні. Мела вял значэнне для пашырэння гіст. уяўленняў і сістэматызацыі ведаў нашых продкаў аб далекай мінуўшчыне народаў свету Уключэнне роднай гісторыі ў міжнар. кантэкст спрыяла ўмацаванню іх нац.-гіст. свядомасці, выхаванню пачуцця патрыятызму.

«В. х.» захавалася больш чым у 10 спісах Маскоўскі, Санкт-Пецярбургскі, Кракаўскі, Табольскі і інш. Шырока бытавала на Беларусі і Украіне, у 18 ст. чыталася і перапісвалася нават у Сібіры. Гісторыя яе ўзнікнення, змест, крыніцы, дакладнасць гіст. звестак, жанравастылевыя і інш. асаблівасці грунтоўна не даследаваны. Апрача «Хронікі літоўскай і жамойцкай», выдадзенай у 1975 М. М. Улашчыкам у т. 32 «Поўнага збору рускіх летапісаў», большая частка яе тэксту не апублікавана.

*В. А Чамярыцкі*

**ВЯЛІ́КДЗЕНЬ**, вялічка, вяліканне, веснавое свята старажытных славян у гонар абуджэння прыроды і надыходу палявых работ Існавала з часоў язычніцтва (паганства), пазней да яго прымеркавана· галоўнае хрысціянскае свята «ўваскрэсенне» распятага Хрыста. В. папярэднічала вербная нядзеля — *вербніца*, калі дамоў прыносілі асвячоныя галінкі вярбы. У залежнасці ад месячнага календара В. прыпадае на час ад 4 крас. да 8 мая. Непасрэдна перад В. адзначаюць чысты чацвер і чырвоную суботу. В. праводзілі вельмі ўрачыста гатавалі шмат страў, асабліва з мяса (канчаўся 7-тыднёвы перадвелікодны вялікі пост), фарбавалі яйкі (гл. *Пісанкі*), пяклі кулічы, рабілі пасху. Характэрная асаблівасць правядзення В. ў беларусаў — хаджэнне валачобнікаў (гл. *Валачобніцтва*), спяванне ў першы дзень свята валачобных песень, абрадавы сэнс якіх — пажаданне гаспадарам плёну на ніве, прыплоду ў статку, добрага здароўя і шчаслівай долі ў сям'і. Больш працяглы час пелі велікодныя песні.

*Літ* Алмазов С Ф., Питерский П Я Праздники православной церкви М , 1962 Никифоровский Н. Я. Просто народные приметы и поверья, суеверные обряды и обычаи, легендарные сказания о лицах и местах. Витебск, 1897

**ВЯЛІ́КІ КНЯЗЬ**, найвышэйшы княжацкі тытул у Вялікім княстве Літоўскім і да 16 ст. на Русі. У ВКЛ меў тытул В. к. літоўскага, рускага, жамойцкага і інш. земляў, называўся таксама гаспадаром. З'яўляўся кіраўніком дзяржавы. Яму былі падначалены князі і магнаты, якія кіравалі асобнымі княствамі, землямі, вотчынамі. Выбіраўся феадаламі, звычайна з сыноў ці блізкай радні папярэдняга В. к. Меў шырокія паўнамоцтвы· весці міжнар справы, уступаць у саюзы, абвяшчаць вайну і заключаць мір, распараджацца ўзброенымі сіламі дзяржавы, дзярж. маемасцю, даходамі і скарбамі, дараваць дзярж маемасць, тытулы і званні, ажыццяўляць вышэйшы суд і памілаванне засуджаных. Яму належала заканадаўчая ініцыятыва, усе асн. законы і прававыя акты выдаваліся за яго подпісам. *Прывілей 1447* і *Прывілей 1492* юрыдычна абмежавалі ўладу В. к Паводле іх ен не меў права самастойна вырашаць найбольш важныя пытанні знешняй і ўнутранай палітыкі. Нягледзячы на тое, што заканадаўчыя акты, у т л. *Статут Вялікага княства Літоўскага 1588*, падкрэслівалі, што ўлада В. к. ад бога, яго становішча было тыповым для абмежаванага феад. манарха, правы яго грунтаваліся на выбарнай аснове. Калі ў 14 ст *Рада Вялікага княства Літоўскага* пры В. к. з'яўлялася толькі дарадчым органам, то пазней яе значэнне намнога павысілася, многія мерапрыемствы дзярж. кіравання маглі быць здзейснены толькі са згоды рады У адсутнасць В. к. рада фактычна была вышэйшым дзярж. органам і дзейнічала самастойна. Абмежаванне ўлады В. к. прадугледжвалася заканадаўствам ВКЛ у форме клятвы і абяцання В. к. захоўваць пэўныя правы і прывілеі, а таксама ў форме прамой забароны. Напр., В. к. забаранялася пачынаць вайну або ўстанаўліваць падаткі на ваенныя патрэбы без дазволу на тое сойма, выдаваць законы, якія б пярэчылі Статуту ВКЛ 1588, раздаваць духоўныя і свецкія пасады, тытулы і землі ВКЛ іншаземцам, у т. л. польскай шляхце. Пасля *Люблінскай уніі 1569* В. к. ВКЛ адначасова быў каралем Польшчы, стаяў на чале агульнай саюзнай дзяржавы — *Рэчы Паспалітай*. В. к., акрамя гэтага тытула, меў тытулы па назве земляў, якімі валодаў. Напр., Жыгімонт Ваза меў тытулы караля польскага, вялікага князя літоўскага, рускага, прускага, жамойцкага, мазавецкага, інфляндскага, наследнага гаспадара і караля шведскага, гоцкага, вандальскага, вялікага княжыча фінляндскага і інш. Вял. князямі літ. былі: Міндоўг [сярэдзіна 1230-х гадоў — 1263], Транята [1263—64], Войшалк [1264—67] Шварн [1267 — каля 1270], Трайдзен [1270—82]. Пасля смерці Трайдзена у летапісах вял. князёў літ. не згадваецца Магчыма, да 1290 імі былі Будзікід і Будзівід. Потым княжылі Віцень [1295—1316], Гедзімін [1316—41, заснавальнік дынастыі Гедзімінавічаў], Яўнут [1341—45], Альгерд [1345—77], Ягайла [1377—81, 1382—92 і кароль польскі Уладзіслаў II у 1386—1434; заснавальнік дынастыі Ягелонаў], Кейстут [1381—82; у 1345—77 падзяляў уладу з Альгердам], Вітаўт [1392—1430], Свідрыгайла [1430—32] Жыгімонт Кейстутавіч [1432—40], Казімір [1440—92 і адначасова кароль польскі Казімір IV з 1447], Аляксандр [1492—1506 і адначасова кароль польскі з 1501], Жыгімонт Стары [1506—48 і адначасова кароль польскі Жыгімонт I Стары], Жыгімонт Аўгуст [1548—72 і адначасова кароль польскі Жыгімонт II Аўгуст], Генрык Валезы [1573, адначасова кароль польскі] Стэфан Баторый [1576—86 і адначасова кароль польскі], Жыгімонт Ваза [1587—1632 і адначасова кароль польскі Жыгімонт III Ваза], Уладзіслаў [1632—48 і адначасова кароль польскі Уладзіслаў IV Ваза], Ян Казімір [1648—68 і адначасова кароль польскі Ян II Казімір], Міхал Вішнявецкі [1669—73 і адначасова кароль польскі], Ян Сабескі [1674—96 і адначасова кароль польскі Ян III Сабескі], Аўгуст Моцны [1697—1706, 1709—33 і адначасова кароль польскі Аўгуст II Моцны], Станіслаў Ляшчынскі [1704—09, 1733 і адначасова кароль польскі], Аўгуст III [1733—63 і адначасова кароль польскі], Станіслаў Аўгуст Панятоўскі [1764—95 і адначасова кароль польскі]. Пасля заваявання Беларусі і значнай часткі Літвы ў ходзе вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 рус. цар Аляксей Міхайлавіч унес дапаўненне ў царскі тытул «Всея Великия и Малыя и Белыя России самодержец Литовский, Волынский и Подольский». Пасля ліквідацыі ВКЛ у выніку падзелаў Рэчы Паспалітай у канцы 18 ст. тытулам вял. князя літ. да 1917 карысталіся расійскія імператары. Пра кожнага вял. князя гл. асобны арт.

*Г А Маслыка*

**ВЯЛІ́КІЯ БО́РТНІКІ**, вёска, цэнтр Бортнікаўскага сельсавета Бабруйскага р-на на рацэ Ала. За 25 км на У ад Бабруйска, 10 км ад чыг. ст. Цялуша, на шашы Бабруйск — Рагачоў. 318 двароў 910 жыхароў (1992).

У 1834 у весцы 35 двароў, каля 350 жыхароў, належала дваранам Грынкевічам З сярэдзіны 19 ст. дзейнічала народнае вучылішча, у 1876 пры ім адкрыты шорны і шавецкі рамесныя класы. У 1894 у вучылішчы былі 73 вучні. Паводле перапісу 1897, веска — цэнтр Бортнікаўскай вол. Бабруйскага пав.; 93 двары, 858 жыхароў, народнае вучылішча, праваслаўная царква, 2 млыны, крупадзерка заезны двор, кузня, 2 крамы. Права

ізіліся 2 таргі на год. На пачатку 20 ст. 144 двары, 951 жыхар. У 1905 адбылося хваляванне сялян Бортнікаўскай вол. У 1917 у весцы 167 двароў, 1038 жыхароў. У час грамадзянскай вайны дзейнічаў валасны рэўком. З 21.8. 1925 В. Б.— цэнтр Бортнікаўскага сельсавета 1-га Бабруйскага, з 4.8.1927— Бабруйскага р-наў У 1926 у весцы 205 двароў, 1050 жыхароў. У 1930 арганізаваны калгас «Чырвоны партызан № 1». У Вял. Айч. вайну акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 124 вяскоўцы загінулі на франтах і ў партыз. барацьбе. У 1970 у весцы 324 двары, 1010 жыхароў. Цэнтр калгаса «Гігант» Сярэдняя і муз. школы, дзіцячыя яслі-сад, Дом культуры (пры ім дзейнічае музей), бібліятэка, фельчарска-акушэрскі пункт, камбінат быт. абслугоўвання, аддз. сувязі, 5 магазінаў, сталовая. Помнік землякам, што загінулі ў Вял. Айч. вайну. *Г І Дулеба*

**ВЯЛІ́КІЯ НАВАСЁЛКІ**, вёска ў Дзяржынскім сельсавеце Дзяржынскага р-на. За 8 км на Пн ад Дзяржынска, 11 км ад чыг ст. Койданава. 495 ж., 182 двары (1992).

У пісьмовых крыніцах з 18 ст. ўпамінаецца маентак Наваселкі, які належаў панам Кастравіцкім. У 1778 у час феад. міжусобіцы апалчэнне, накіраванае ўпраўляючым Койданаўскага графства, безвынікова спрабавала захапіць маентак. Паводле 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793), у складзе Койданаўскай воласці Мінскага пав. У ліст. 1821 — студз. 1822 у маентку жыў брат дзекабрыста І І. Пушчына — М. І. Пушчын. У 1830—40-я гады маентак належаў дзядзьку бел пісьменніка К. *Каганца*, а бацьку пісьменніка — маёнтак Малыя Наваселкі (у 1860-я гады яго новы уладальнік штабс-капітан Шустаў перанёс в Малыя Наваселкі ў інш. месца пад назвай Ярашоўка). За ўдзел у *паўстанні 1863—64* абодвух братоў саслалі ў Сібір, а маенткам В. Н. завалодалі Здзяхоўскія. Сядзіба ўключала панскі дом, стайню, пабудаваныя новымі гаспадарамі спіртзавод і жылы дом для рабочых. У лютым — ліст. 1918 В. Н. акупіраваны герм., у 1919—20 — польск. войскамі. З 23 3.1932 цэнтр Наваселкаўскага сельсавета Койданаўскага, з 29.6.1932 Дзяржынскага, з 31.7.1937 — Мінскага, з 4 2.1939 зноў Дзяржынскага р-наў. З 28 6.1941 да 7 7 1944 акупіраваны ням.-фаш. войскамі. З жн. 1941 тут дзейнічала падп. патрыятычная група (20 чал.). З 16.7.1954 веска ў Дзяржынскім сельсавеце. У 1970 было 553 жыхары, 156 двароў Цэнтр калгаса «Чырвоная Зорка». У весцы сярэдняя школа, Дом культуры, бібліятэка, бальніца, дзіцячы садок, магазін. Помнік на магіле К. Каганца, помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну.

*Літ* Валаханович А И, Кулагин А Н Дзержинщина Прошлое и настоящее Мн, 1986 *А І Валахановіч*

**ВЯЛІ́КІЯ ШЫЛАВІЧЫ**, група археал. помнікаў каля в. Вялікія Шылавічы Слонімскага р-на

С т а я н к а - 1 6—4-га тысячагоддзяў да н. э. У цэнтры вескі, за 100 м ад правага карэннага берага р. Шчара. Выявіў у пач. 1970-х гадоў В. Р. Супрун, даследавалі ў 1986 М. М. Чарняўскі, у 1987—88 Н. В. Шаблюк. Культурны пласт 0,4 м. Выяўлены крамяневыя нуклеусы (80), прылады працы (248), вербалістыя наканечнікі стрэл, авальныя сякучыя прылады, трапецыі, сегмент, ланцэтападобныя вастрыі, разцы, канцавыя скрабкі, скоблі, нажы, праколкі, фрагменты керамікі ранняга неаліту.

С т а я н к а - 2 неаліту і *бронзавага веку*. За 200 м на Пд ад вескі. Адкрыў і даследаваў у 1963—64 Супрун, абследаваў у 1974 Чарняўскі. На паверхні сабраны ляпная кераміка, крамяневыя скрабкі, нажападобныя пласціны, наканечнікі стрэл і коп'яў, нуклеусы і інш.

С т а я н к а - 3 *неманскай культуры* На правым беразе р. Шчара Адкрыў і даследаваў у 1963—64 Супрун, даследаваў у 1974 Чарняўскі. Культурны пласт да 0,5 м. Выяўлены крамяневыя прылады працы.

*Літ* Супрун В Г Памятники каменного века и эпохи бронзы в бассейне среднего течения р Щары // Древности Белоруссии Мн, 1966

*М М Чарняўскі, Н В Шаблюк*

**ВЯЛІ́ЧКА** Генадзь Іосіфавіч (н 15.2. 1922, в. Лутна Аршанскага пав., цяпер Шклоўскі р-н), Герой Сав. Саюза (1943). Скончыў школу авіямеханікаў (1941), электрамеханічны тэхнікум (1963). У Вял Айч вайну на фронце з чэрв 1941 Удзельнік баеў пад Сталінградам, на Доне, вызвалення Украіны, Польшчы, Чэха-Славакіі. Снайпер ст. сяржант В. знішчыў 330 гітлераўцаў, падрыхтаваў каля 200 снайпераў Да 1946 у Чырв. Арміі, лейтэнант. Працаваў у г. Каменск-Шахцінскі Растоўскай вобл. З 1967 жыве ў г. Янакіева Данецкай вобл.

**ВЯЛЮ́ГІН** Анатоль Сцяпанавіч (н. 27. 12.1923, в. Машканы Сенненскага р-на), беларускі паэт, кінасцэнарыст. Засл. дзеяч культуры Беларусі (1969). Удзельнік Вял. Айч. вайны. Скончыў Мінскі пед. ін-т (1948). У 1939—40 літсупрацоўнік газ. «Чырвоная змена», «Звязда», у 1945—46 у газ. «Літаратура і мастацтва», у 1946—69 заг. аддзела паэзіі час. «Полымя». Першы зб. «Салют у Мінску» (1947). Яго паэзія — летапіс жыцця краіны, адлюстроўвае выпрабаванні народа ў Вял. Айч. вайну, яго стваральную працу. Выдаў кнігі «Негарэльская арка» (1949), «На подступах» (1952), «На зоры займае» (1958), «Насцеж» (1960), «Адрас любві» (1964), «Вершы і балады» (1969), «Верасовы ўзятак» (1974) і інш. Вядучай у творах В. з'яўляецца гісторыка-рэвалюцыйная тэма (паэмы «Бацька Дняпро», 1955, «Вецер з Волгі», 1960—63, Літ. прэмія імя Я. Купалы 1964) і інш. Аўтар зборнікаў для дзяцей, сцэнарыяў дакумент. фільмаў «Балада пра маці» (1965), «Арліная крыніца» (1966), «Генерал Пушча» (1967, Дзярж. прэмія БССР 1968), «А зязюля кукавала» (1972), «Гарызонты дарог» (1977) і інш, маст фільма «Рэха ў пушчы» (1977). Укладальнік зб. «Мы іх не забудзем» (1949) і «Крывею сэрца» (1967). Перакладаў на бел. мову пасобныя творы Дз. Беднага, У. Бранеўскага, У. Маякоўскага, Э. Межэлайціса, М. Рыльскага, Ю. Тувіма, У. Сасюры, П. Тычыны і інш.

А С Вялюгін.

*Тв* Выбр тв Т 1—2 Мн, 1973, Выбр тв Т 1—2 Мн, 1984 *М У Мікуліч*

**ВЯЛЯ́ЦІЧЫ**, селішча і курганныя могільнікі каля в. Вяляцічы Барысаўскага р-на.

С е л і ш ч а 6—10 ст. За 400—500 м на Пд ад вескі ў сутоках р. Нача (левы бераг) і Бобр. Культурны пласт 0,2 м Знойдзены ляпная і ганчарная кераміка, жалезны нож, фрагмент глінянага праслліца, а таксама крамяневыя загатоўкі для стралы, скрабок.

К у р г а н н ы м о г і л ь н і к - 1 10—11 ст. За 450 м на Пд ад вескі побач з селішчам. 12 круглых насыпаў. У 1979 абследаваў, у 1986 даследаваў 3 курганы Ю. А. Заяц. Пахавальны абрад — трупаспаленне за межамі кургана і трупапалажэнне на мацерыку. У курганах з трупаспаленнем знойдзены жалезная прамавугольная спражка і фрагмент бронзавага ўпрыгожання. У кургане з трупапалажэннем выяўлена парнае пахаванне на попельнай пляме ад рытуальнага вогнішча. Знойдзены шкляныя (залочаныя бочачкападобныя і рабрыстыя) і бронзавая кручаная пацеркі, медны бранзалет з круглага дроту, жалезны нож.

За 200 м на ПдУ ад вескі на левым беразе р. Бобр м о г і л ь н і к - 2 з 4 насыпаў і за 3 км м о г і л ь н і к - 3 з 2 насыпаў, за 2 км на ПдЗ ад вескі на левым беразе р. Бобр м о г і л ь н і к - 4 з 30 курганоў

*Літ* Штыхов Г В, Заяц Ю А, Поздняк З С Исследования в Минске и его округе // Археологические открытия 1986 г М, 1988 *Ю А Заяц*

**ВЯНО́К**, 1) жаночае ўпрыгожанне з кветак, зелянiны, стужак, пер'я, каласоў збажыны, якое надзявалі на галаву Пашыраны па ўсей Беларусі. Паводле спосабаў вырабу і аздаблення В. падзяляюцца на 4 віды. Віты В. з палявых

кветак, барвенку, руты насілі дзяўчаты летам. В. быў иеабходным атрыбутам миогіх абрадаў: *вяселля, купалля,* дажынак і інш. В.-абручык рабілі з лазы, галінак дрэва і абгортвалі рознакаляровай тканінай ці паперай, аздаблялі зялёнінай, штучнымі кветкамі, васковымі ягадкамі, ззаду прывязвалі рознакаляровыя стужкі. Вядомы найболыш у Брэсцкім Палессі. В. на каркасе (накшталт сіта без дна, вышынёй 10—16 см) выраблялі з лубу, бяросты, кардону і абцягвалі тканінай. Звонку абшывалі каляровай тканінай, аздаблялі папяровымі кветкамі, фарбаваным пер'ем, пацеркамі, ззаду да верхняга краю мацавалі пук стракатых стужак і пярэстыя палосы тканіны даўжынёй каля 90 см. Выкарыстоўвалі як дэталь вясельнага ўбору ў Зах. Палессі, Падняпроўі. В.-шапачку рабілі з гнуткіх дубчыкаў, якія перапляталі, каб закрыць верх. Паверхню звонку высцілалі штучнымі кветкамі або фарбаваиым у зялёны колер пер'ем. Такія В. бытавалі ў Пінскім Палессі. Асаблівай разнастайнасцю і багаццем аздаблеиия вызиачаліся В. на Палессі і Падняпроўі. У вясельным абрадзе быў сімвалам дзявочай чысціні.
2) Адзінка колькасці цыбулі, часнаку, грыбоў з няпэўиым метрычным значэннем. *М. Ф. Раманюк.*

**ВЯРБІ́ЦКІ** Васіль Аляксеевіч (1.3.1918, в. Ляскова Багучарскага р-на Варонежскай вобл.— 6.4.1943), удзельнік *Віцебскага патрыятычнага падполля* ў Вял. Айч. аайну. У Чырв. Арміі з 1938. Напярэдадні вайны служыў у Баранавічах. Трапіўшы ў акружэнне, у жн. 1941 стварыў і ўзначаліў разведвальна-дыверсійную групу ў Віцебску. У крас. 1943 **В.** і 30 членаў гэтай групы арыштаваны фашыстамі, пасля катаваиняў 17 чал. расстраляны, астатнія кінуты ў лагер смерці.

**ВЯРГЕ́Й** Валянціна Сяргееўна (н. 28.9. 1946. г. Петрыкаў Гомельскай вобл.), беларускі археолаг. Канд. гіст. навук (1984). Скончыла БДУ (1968). Працавала ў БДУ і Гродзеискім пед. ін-це (1969—75), з 1978 у Ін-це гісторыі АН Беларусі. Асн. кірунак дзейнасці — гістарыяграфія археалогіі Беларусі і гісторыя насельніцтва Бел. Палесся жалезиага веку. Адзін з аўтараў кн. «Беларуская археалогія» (1987).

*Тв.:* Археалагічиая навука ў БССР, 1919—1941 гг. Мн., 1992; Жилища славянских поселений второй половины I тыс. н. э. в Белорусском Полесье // Проблеми історії та археології давнього населення Української РСР. Київ, 1989.

**ВЯРО́ЎКІН** Міхаіл Лаўрэнцьевіч (1825—20.2.1896), вучоны-архівіст, археограф. З сям'і праваслаўнага святара. У 1839—47 вучыўся ў Полацкай духоўнай семінарыі. У 1847—53 выкладаў у духоўным вучылішчы ў Віцебску, затым працаваў у Полацкай духоўнай кансісторыі, Віцебскім губернскім праўлеині, Себежскай, Дынабургскай і Дрысеискай дваранскіх апеках, Віцебскім губернскім статыстычным камітэце. З 1888 архіварыус *Віцебскага цэнтральнага архіва старажытных актаў.* Адзін са складальнікаў і рэдактараў 10 выпускаў *«Гісторыка-юрыдычных матэрыялаў»* [вып. 17 (сумесна з Мяшчэрскім), 18—26]. Як заўзяты прыхільнік праваслаўя ў каментарыях да дакументаў падкрэсліваў ролю праваслаўнай царквы ў гісторыі Беларусі 16—17 ст. Публікацыю інвентароў суправаджаў уласнымі падлікамі агульнага даходу маёнткаў, колькасці сялян, велічыні іх надзелаў і павіннасцей і інш. Аўтар вершаў і баек (друкаваліся ў газ. *«Витебские губернские ведомости»*). *А. К. Галубовіч, А. М. Падліпскі.*

**ВЯРСТА́,** 1) даўняя адзінка вымярэння даўжыиі (адлегласці) у сістэме мер ВКЛ, раўнялася прыблізна 1554,6 м. На Беларусі ўжываліся дзве **В.**: **В.**= 798 сажням і **В.** в я л і к а я = 1000 сажням, а ў 19 — пач. 20 ст. р у с к а я **В.**= 1052 м.
2) Дарожны (верставы) слуп, што адзначаў гэту меру.

**ВЯРХО́ЎНЫ САВЕ́Т РЭСПУ́БЛІКІ БЕЛАРУ́СЬ,** вышэйшы пастаянна дзеючы орган дзярж. улады Беларусі. Складаецца з адной палаты. Выбіраецца грамадзяиамі Беларусі на аснове ўсеагульнага, роўнага і прамога выбарчага права пры тайным галасаванні. Першыя выбары ў Вярх. Савет БССР адбыліся ў 1938. Дэпутаты (1 ад 20 тыс. чал. иасельніцтва) выбіраліся на 4 гады; з 1975 — на 5 гадоў. У арганізацыі і правядзеиіі выбараў у Вярх. Савет кіруючая роля належала КПБ, якая вызначала колькасць дэпутатаў, іх нац., сац. і прафесійны склад. Такая традыцыя адкінута толькі ў 1990, калі ў пераважиай большасці выбарчых акруг на 1 дэпутацкі мандат прэтэндавала иекалькі чалавек ад розных грамадскіх арг-цый і рухаў. З 1990 Вярх. Савет складаецца з 360 дэпутатаў, якія выбіраюцца на 5 гадоў па аднамандатных выбарчых акругах у наступным парадку: 310 дэпутатаў ад тэрытарыяльных акруг з прыкладна роўнай колькасцю выбаршчыкаў, 29 — ад Бел. рэсп. арг-цыі ветэранаў вайны і працы, 7 — ад т-ва інвалідаў, 7 — ад т-ва сляпых, 7 — ад т-ва глухіх. В. С. Р. Б. правамоцны прыняць да разгляду і вырашаць любое пытанне, што адносіцца да ведання дзяржавы. Да выключиага ведання В. С. Р. Б. адносяцца: прыняцце Канстытуцыі, унясеиие ў яе змен, выбары Старшыні В. С. Р. Б. і яго намеснікаў, выбранне і назначэнне шэрага інш. службовых асоб; иазначэиие выбараў нар. дэпутатаў розных узроўняў, зацвярджэнне плана дзярж. і иайважнейшых праграм экаиамічиага і сац. развіцця краіны, дзярж. бюджэту і справаздач аб іх выкаиаині, утварэнне падсправаздачных оргаиаў, ратыфікацыя і дэнансацыя міжнар. дагавораў Беларусі, вырашэнне пытанняў, звязаных са змеиай дзярж. граиіц Беларусі; устаиаўленне дзярж. узнагарод і ганаровых званняў; прыняцце рашэння аб правядзенні рэферэндуму; выданне актаў аб амністыі, вырашэнне інш. пытанияў, вызначаных Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь. Прымае законы і пастаиовы. Утварае *Савет бяспекі Рэспублікі Беларусь*; выбірае Камітэт канстытуцыйнага нагляду Рэспублікі Беларусь, *Вярхоўны суд Рэспублікі Беларусь,* Генеральнага пракурора, Старшыню Кантрольнай палаты; прызначае Старшыню Савета Міністраў і па яго прадстаўленні зацвярджае склад *Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь,* Старшыню Вышэйшага Гаспадарчага суда, Старшыню Нац. банка. Склікаецца штогод на 2 чарговыя сесіі; нечарговыя сесіі склікаюцца *Прэзідыумам Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь* па яго ініцыятыве, па прапанове Старшыні В. С. Р. Б. або не менш як $^{1}/_{3}$ дэпутатаў. Сесія В. С. Р. Б. складаецца з яго пасяджэнняў, а таксама пасяджэнняў пастаянных камісій В. С. Р. Б. Законы пастановы і інш. акты В. С. Р. Б. прымаюцца большасцю галасоў ад агульнай колькасці дэпутатаў (для змен Канстытуцыі патрэбна большасць у $^{2}/_{3}$ галасоў). Ажыццяўляе кантроль за усімі падсправаздачнымі яму дзярж. органамі, утварае Каитрольную палату — вышэйшы орган фіиаисава-экаиам. кантролю ў краіне; стварае, калі палічыць неабходным, следчыя, рэвізійныя і інш. камісіі па любым пытанні. Парадак дзейнасці В. С. Р. Б. і яго органаў вызначаецца Часовым рэгламентам В. С. Р. Б. і законамі, прынятымі иа асиове Канстытуцыі. На працягу работы В. С. Р. Б. 12-га склікання заявілі аб сваёй дзейнасці ў якасці парламенцкіх груп «Дэпутацкі дэмакратычны клуб», дэпутаты аграрнікі, дэпутаты ад Бел. нар. фронту «Адраджэньне» (аргаиізаваліся ў апазіцыю), дэпутаты камуністы, былі створаны таксама дэпутацкія фракцыі «Дэмакратычиыя рэформы», «За дэмакратыю і сацыяльиы прагрэс», аб'яднанне дэпутатаў «Беларусь». Выдае *«Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь».* Скліканні ВС Беларусі: 1-е (1938), 2-е (1947), 3-е (1951), 4-е (1955), 5-е (1959), 6-е (1963), 7-е (1967), 8-е (1971), 9-е (1975), 10-е (1980), 11-е (1985), 12-е (1990). *М. І. Дзянісаў.*

**ВЯРХО́ЎНЫ СУД РЭСПУ́БЛІКІ БЕЛАРУ́СЬ,** вышэйшы орган судовай улады рэспублікі. Складаецца са Старшыні, яго иамеснікаў, членаў і нар. засядацеляў, якія выбіраюцца Вярх. Саветам Рэспублікі Беларусь (суддзі на 10 гадоў, иар. засядацелі иа 5). Колькасны склад Вярх. Суда ўстанаўлівае Вярх. Савет рэспублікі. Арганізацыя і парадак дзейнасці вызначаюцца Каистытуцыяй Рэспублікі Беларусь, Законам аб судовым ладзе, кодэксамі і інш. нарматыўнымі актамі. Складаецца з Плеиума, прэзідыума, калегій па цывільиых і крымінальных справах, ваеннай калегіі. Ажыццяўляе иагляд за суд. дзейиасцю ўсіх судоў рэспублікі, вывучае суд. практыку і дае судам кіруючыя тлумачэнні па пытаниях прымяиения заканадаўства Беларусі. Як суд 1-й інстанцыі разглядае найб. складаныя ці асаблівага грамадскага значэння справы. З'яўляецца судом 2-й (касацыйнай) інстанцыі адносна абласных і Мінскага гарадскога судоў; у парадку судовага иагляду раз-

глядае скаргі і пратэсты на рашэнні, прыгаворы, вызначэнні і пастановы ўсіх агульных судоў рэспублікі.

Заснаваны ў 1923 як Вярхоўны суд БССР замест Вышэйшага касацыйнага суда. Старшыня і члены суда назначаліся Прэзідыумам ЦВК БССР. Дзейнічаў у складзе прэзідыума, пленарнага пасяджэння, касацыйнай калегіі па цывільных і крымінальных справах. Ажыццяўляў судовы кантроль і нагляд за дзейнасцю ўсіх судоў БССР (апрача ваенных і ваенна-транспартных трыбуналаў), зямельных і арбітражных камісій, разглядаў у касацыйным парадку справы, вырашаныя Вышэйшым судом, які быў сярэднім звяном судовай сістэмы рэспублікі. Функцыю суда 1-й інстанцыі атрымаў у 1924. Вывучаў і абагульняў судовую практыку і статыстыку, даваў кіруючыя тлумачэнні судам па пытаннях прымянення заканадаўства. Вярх. суд СССР ажыццяўляў нагляд за дзейнасцю Вярх. суда БССР, а з 1934 мог адмяняць судовыя пастановы апошняга. Канстытуцыя СССР 1936 і прыняцце Закону аб судовым ладзе СССР, саюзных і аўтаномных рэспублік 1938 значна звузілі паўнамоцтвы Вярх. суда БССР. Ён быў пазбаўлены права даваць судам кіруючыя тлумачэнні, права заканадаўчай ініцыятывы, вызваляўся ад функцыі арганізац. кіраўніцтва абл. судамі, звужаліся яго наглядныя паўнамоцтвы, адпаведна была спрошчана яго структура. Гэта было часткай агульнай цэнтралізацыі ўсіх кірункаў дзярж. дзейнасці ў таталітарнай краіне. У гады масавых рэпрэсій, як і іншыя суды, выносіў неправасудныя прыгаворы, выкарыстоўваўся для расправы з іншадумцамі. У 1959 ва ўмовах некаторага пашырэння правоў саюзных рэспублік, прыняты Закон аб судовым ладзе БССР, у адпаведнасці з якім Вярх. суду БССР зноў нададзены правы заканадаўчай ініцыятывы, права даваць судам кіруючыя тлумачэнні па пытаннях заканадаўства рэспублікі. Дзейнічаў у саставе Пленума і 2 калегій. Прэзідыум дзейнічаў у 1954—59 і з 1989. У 1960—70 ажыццяўляў судовае кіраванне ніжэйшымі судамі і натарыяльнымі канторамі, якое потым было ўскладзена на органы Мін-ва юстыцыі. Наступная прававая рэгламентацыя юрыд. статуса Вярхоўнага суда адлюстравана ў Законе аб судовым ладзе 1981, прынятым на аснове Канстытуцыі БССР 1978.

*І. І. Марціновіч.*

**ВЯРЦІНСКІ** Анатоль Ільіч (н. 18.11.1931, в. Дзямешкава Лепельскага р-на), беларускі паэт, публіцыст, дзяржаўны дзеяч. Пасля заканчэння БДУ (1956) працаваў у рэдакцыях раённых газет (Давыд-Гарадок, Камянец, Клімавічы, Рагачоў). З 1962 у Мінску ў газ. «Літаратура і мастацтва», выд-ве «Беларусь». З 1967 літ. кансультант, у 1975—82 сакратар праўлення СП Беларусі. У 1986—90 гал. рэдактар газ. «Літаратура і мастацтва», з 1990 дэпутат Вярх. Савета БССР (з 1991 Рэспублікі Беларусь), нам. старшыні пастаяннай камісіі Вярх. Савета па пытаннях галоснасці, сродкаў масавай інфармацыі, правоў і зваротаў грамадзян. Першы зб. «Песня пра хлеб» (1962). Выдаў кнігі паэзіі «Тры цішыні» (1966), «Чалавечы знак» (1968), «Выбранае» (1973), «Святло зямное» (1981) і інш. В.— паэт абвострана-палемічнага і грамадскага тэмпераменту, надзеннай праблематыкі. Яго лірыка скіравана на духоўныя памкненні чалавека, вытокі якіх у нар. самасвядомасці, маральных першаасновах

А. І. Вярцінскі.

Э. І. Вярыга.

сялянскага жыцця. Яго творам уласціва псіхалагічная напоўненасць, раскаванасць апавядальнай манеры, гуманістычная чуйнасць да клопатаў і трывог сучасніка. У творах В. адлюстраваны гераізм народа ў Вял. Айч. вайне. Аўтар літаратурна-крытычных артыкулаў, эсэ, нарысаў (зб. «Высокае неба ідэалу», 1980), кнігі публіцыстыкі «Нью-Йоркская сірэна» (1987, Дзярж. прэмія БССР 1988). Піша п'есы для дзяцей. Перакладае на бел. мову творы класічнай і сучаснай рус., укр., літоўскай, латышскай, польскай, балгарскай, венгерскай, кубінскай паэзіі. *М. У. Мікуліч.*

**ВЯРШЫНІН** Канстанцін Андрэевіч [21.5(3.6).1900, в. Боркіна Яранскага пав. Вяцкай губ., цяпер Санчурскі р-н Кіраўскай вобл.— 30.12.1973], Герой Сав. Саюза (1944), галоўны маршал авіяцыі (1959), удзельнік баёў на Беларусі ў Вял. Айч. вайну. У Чырв. Арміі з 1919. У час грамадз. вайны на Зах. фронце. Скончыў Ваенна-паветр. акадэмію імя Жукоўскага (1932). З вер. 1941 камандуючы ВПС Паўд., Закаўказскага франтоў, камандуючы 4-й паветр. арміяй. Удзельнік вызвалення Паўн. Каўказа, Кубані, Крыма, Беларусі, Польшчы, Усх.-Прускай аперацыі. У 1946—49 і 1957—69 галоўнакамандуючы ВПС і нам. міністра абароны СССР. У 1949—57 на адказных пасадах у войсках ППА СССР. Аўтар кн. «Чацвёртая паветраная» (1975).

**ВЯРШЫНІН** Мікалай (сапр. Верамей; 1878, в. Налібакі Навагрудскага пав., цяпер Навагрудскі р-н — 6.5.1934), беларускі грамадска-паліт. дзеяч. Удзельнік рэвалюцыі 1905—07. Пасля ў эміграцыі ў Аўстра-Венгрыі. З 1918 консул БНР у Чэхаславакіі. Пасля ліквідацыі эмігранцкага ўрада БНР у 1925 узначаліў створаную ім Бел. грамаду ў Празе. Актыўна ўдзельнічаў у жыцці бел. эміграцыі ў Чэхаславакіі. Заснавальнік і першы заг. *Беларускага заграмнічнага архіва.* Дамогся дзярж. субсідый для студэнтаў-беларусаў з Зах. Беларусі і Латвіі (больш за 100 стыпендый). Выступаў у друку з артыкуламі па пытаннях бел. вызв. руху. Пахаваны ў Празе на Альшанах. *А. С. Ліс.*

**ВЯРЫГА** (Weryho) Уладзіслаў (9.6.1868, Пскоў — 27.8.1916), польскі філосаф і этнограф, збіральнік бел. фальклору. З сям'і ўдзельніка паўстання 1863—64, які пасля канфіскацыі яго маёнтка пад Полацкам апынуўся ў Пскове. У 1892 за працу «Гісторыка-філасофскія асновы нямецкага сацыялізму» атрымаў ступень доктара філасофіі. Вучыўся ва ун-тах Варшавы, Берліна, Прагі, Берна. У 1898—1916 рэдактар час. «Przegląd filozoficzny» («Філасофскі агляд»). У час. «Zbiór wiadomości do antropologii krajowej» (Збор звестак па айчыннай антрапалогіі. 1889.Т.13) апублікаваў 45 бел. нар. песень, запісаных ім у Лідскім пав., друкаваўся і ў час. «Wisła» («Вісла»). Выдаў кн. «Беларускія паданні» (Львоў, 1889), дзе змясціў 32 бел. чарадзейныя і сац.-бытавыя нар. казкі з Лідскага пав., сярод якіх аказаліся рэдкія сюжэты. Аўтар прац «Латышскія паданні (1892), «Маркс як філосаф» (1894, на ням. мове). *І. У. Саламевіч.*

**ВЯРЫГА** Эдмунд Іванавіч [каля 1840 — 10(23).9.1902], адзін з кіраўнікоў *паўстання 1863—64* у Літве і на Беларусі. З сям'і адміністратара маёнтка Веркі (паблізу Вільні). Скончыў Віленскую гімназію. У час вучобы на матэматычным факультэце Пецярбургскага ун-та (з 1857) адзін з кіраўнікоў рэв. студэнцтва, зблізіўся з К. *Каліноўскім,* трымаў сувязі з віленскай дэмакр. моладдзю, вёў рэв. агітацыю сярод сялян на радзіме. Як член віленскага *Камітэта руху* (пазней *Літоўскага правінцыяльнага камітэта*) разам з Каліноўскім удзельнічаў у падрыхтоўцы паўстання, клапаціўся пра нарыхтоўку зброі, у ліст. 1862 вёў перагаворы ў Варшаве з Цэнтр. нац. к-там, адстойваючы інтарэсы Літвы і Беларусі. 19.2(3.3).1863 арыштаваны (у Вільні ў доме М. Шкленіка, будучага цесця Ф. Багушэвіча) і пасля працяглага зняволення ў віленскіх турмах прыгавораны да 8 гадоў катаргі. Пакаранне адбываў у Кадаінскіх капальнях з М. Г. Чарнышэўскім. Пасля працаваў

ства (1432) разам з Белазерскім княствам атрымаў яго малодшы сын Міхаіл Андрэевіч, родапачынальнік князеў В.; старэйшы сын, Іван Андрэевіч, стаў прадаўжальнікам роду князеў Мажайскіх. Найб. вядомыя В.

Міхаіл Андрэевіч (?—1486), падчас феад. вайны за трон Маскоўскага вял. княства паміж вял. князем маскоўскім Васілем II і князем звенігародска-галіцкім Юрыем Дзмітрыевічам падтрымаў спачатку апошняга, свайго дзядзьку, але потым перайшоў на бок Васіля II, які даводзіўся яму стрыечным братам Разам з ім хадзіў супраць хана Улуг-Мухамеда (абодва трапілі ў палон, пазней вызвалены). У 1471 разам з Іванам III хадзіў на Ноўгарад Вялікі У 1484 яго сын Васіль Удалы з сям'ёю ўцек у ВКЛ. Іван III прымусіў Міхаіла Андрэевіча падпісаць некалькі пагадненняў, паводле якіх апошні абавязаўся не падтрымліваць з сынам сувязь, не прымаць яго ў свае ўладанні, у тастаменце адпісаць свой удзел вял князю маскоўскаму. Пасля смерці Міхаіла Андрэевіча (1486) Вярэйскае княства далучана да Маскоўскага вял княства Меў сына Івана (памер да 1485).

Васіль Міхайлавіч Удалы (? — каля 1501), старэйшы сын Міхаіла Андрэевіча У 1468 і 1469 удзельнічаў у паходзе маскоўскага войска на Казань, у 1471 — на Ноўгарад, у 1472 і 1480 — супраць татарскага хана Ахмата. Быў жанаты з Марыяй Андрэеўнай Палеалог, пляменніцай жонкі Івана III, вял. княгіні маскоўскай Соф'і. У 1483 у сувязі з нараджэннем унука Іван III хацеў падараваць нявестцы каштоўныя каралі, што належалі яго першай жонцы, аднак высветлілася, што Соф'я ўжо падаравала іх на вяселле сваёй пляменніцы Вял. князь загадаў каралі адабраць, а мужа і жонку арыштаваць. Ратуючыся, Васіль Удалы ўцек у ВКЛ (1484). У 1493 Соф'я Палеалог выпрасіла яму дазвол вярнуцца на бацькаўшчыну, але той застаўся ў ВКЛ

На Беларусі вял. князь ВКЛ Казімір у 1484 перадаў яму ва ўладанне Любеч на Дняпры, Койданаў, Усу, Старынкі, Ісլач, Валожын і Радашковічы

Соф'я Васілеўна (пасля 1480—1549), дачка Васіля Міхайлавіча Удалога Выйшла за Альбрэхта Гаштольда (да 1506). Вял. князь ВКЛ Аляксандр пацвердзіў яе правы на бацькавы маенткі. З улікам яе высокага паходжання вял князь ВКЛ Жыгімонт Стары ў 1522 дазволіў ей, яе мужу і іхнім нашчадкам карыстацца пячаткай чырвонага воску (іншыя князі, паны і шляхцiцы звычайна карысталіся зялёнымі пячаткамі). У 1563 муж аддаў ей у пажыццёвае валоданне маенткі Трабы, Гальшаны і інш, у 1539 дазволіў пасля сваёй смерці валодаць маенткамі і пажыццёвымі ўладаннямі да скону. Пасля смерці Соф'і ўсе яе ўладанні адышлі вял. князю ВКЛ як вымарачныя маенткі.

*Літ* Соловьев С М Соч Кн 1—3 История России с древнейших времен М, 1988 Dworzaczek W Genealogia Warszawa, 1959 Tabl 23, Boniecki A Poczet rodow w Wielkiem Księstwie Litewskiem w XV i XVI wieku Warszawa, 1883 S 60, 366, 367, Wolff J Kniaziowie litewsko-ruscy od konca czternastego wieku Warszawa, 1895 S 549—550 *А П Грыцкевіч*

**ВЯРЭ́НЬКА,** 1) каробка, плеценая з бяросты, лубу, лазы для пераносу прадуктаў, збору грыбоў, ягад. Мела круглую, прадаўгаватую ці авальную форму, з адной або дзвюма ручкамі і вечкам ці без яго В 17 ст. знойдзены пры археал. раскопках у Мінску, Віцебску. 2) Ганчарны выраб для кармлення дзяцей. Маленькая гліняная місачка з увагнутымі беражкамі. Вядома з 18 ст.

**ВЯРЭ́НЬКА** Францішак Леапольдавіч (15.3.1862, маентак Пуцілкавічы Барысаўскага пав. Мінскай губ., цяпер Ушацкі р-н — 4.3.1892), бел краязнавец і археолаг Скончыў Мінскую гімназію (1881), Варшаўскі ун-т (1887). У 1886 за навук. працу па нар. медыцыне ўзнагароджаны залатым медалем. Праводзіў археал. раскопкі на тэр. сучаснага Ушацкага р-на ўздоўж р Ушачы. Даследаваў гарадзішчы каля б. в. Гвазды і Вял Бірулі, каля в. Малыя Дольцы выявіў на селішчы рэшткі агнішча, фрагменты пасудзін, жалезныя і бронзавыя кольцы, каля в. Афераўшчына — 2 сярэбраныя грыўні. У наваколлі в Пуцілкавічы ў 1887—91 выявіў 9 гарадзішчаў жалезнага веку і каля 50 курганных груп раннефеадальнага часу (раскапаў 36 курганоў) і склаў археал карту ваколіц вёскі (уключала 85 помнікаў). У рукапісах засталіся падрыхтаваныя да друку яго працы «Курганы ў Пуцілкавічах (1887—92)», «Курганы і два дагістарычныя пасяленні ў Пуцілкавічах», археал. карты, схемы гарадзішчаў, замчышчаў, запісы бел. фальклору. Частка матэрыялаў захоўваецца ў Кракаўскім археал музеі

*Тв* Przyczynek do lecznictwa ludowego // Materiały antropologiczno-archeologiczne i etnograficzne Krakow, 1896 T 1

*Літ* Поболь Л Д Древности Белоруссии в музеях Польши Мн, 1979

*Г А Каханоўскі*

**ВЯСЕ́ЛЛЕ,** комплекс абрадаў і звычаяў, якія з'яўляюцца няпісаным прававым актам зацвярджэння новай сям'і; суправаджае *шлюб.* Вясельны рытуал звязаны з узнікненнем парнага шлюбу ў эпоху матрыярхату, сучасная яго форма зарадзілася з усталяваннем манагаміі ў эпоху патрыярхату. Складаецца са звычаяў і абрадаў, сацыяльных і прававых уяўленняў, маемасных і сямейных адносін, вераванняў, маральна-этычных, рэлігійных норм і поглядаў мінулых часоў, у якіх перапляліся дзеянні, сімвалы розных эпох. У праславянскі перыяд абрад В складаўся з адносна невялікай колькасці магічных дзеянняў, сэнс якіх раскрывалі кароткія песні заклінальнага і эратычнага зместу. Магічныя акты В падзяляліся на пабуджальныя (забяспечвалі новай сям'і шчасце, багацце, пладавітасць) і ахоўныя (засцерагалі маладых ад злых сіл). У час усталявання манагаміі і пасялення маладых у хаце маладога вясельны рытуал набывае асаблівае развіцце.

Бел. В. ў агульных рысах сфарміравалася да 13—14 ст. і ў наступныя стагоддзі выступала ўжо як састаўны абрад з элементамі стараж. магіі і як складанае драматычнае дзеянне з шэрагам разнастайных сцэн, мноствам дзеючых асоб. У выніку ўтварыўся шматфункцыянальны абрадавы комплекс, асобныя слаі якога адлюстроўвалі гіст. зрэзы пэўнай эпохі — ад родаплемяннай і перыяду яе разлажэння да феадальнай і пач. капіталістычнай. В сфарміравалася з вял. колькасці кампанентаў рытуальных дзеянняў сімвалічнага, магічнага і гульнявога характару, слоўнага і музычнага фальклору, элементаў матэрыяльнай культуры (адзенне, галаўныя ўборы, аздабленне памяшкання, вясельны поезд, атрыбуты магічнага дзеяння і г д.). У адпаведнасці з паслядоўнасцю абрадавых дзеянняў падзяляецца на 3 часткі: давясельную, або падрыхтоўчую — выглядзіны, допыт, сватанне, запоіны, агледзіны, заручыны, уласна вясельную — суборная субота (зборны вечар, дзявочнік), каравай, пасад, прыезд дружыны маладога да маладой, пераезд да маладога, камора, пасаг, дзяльба каравая, адорванне маладых і інш.; паслявясельную — цыганы, пярэзвы Давясельная частка мае пераважна фармальна-бытавы характар і належыць да параўнальна позніх састаўных элементаў бел. вясельнай абраднасці У час сватання афармляецца пагадненне паміж бацькамі маладых пры заключэнні шлюбу, выконваюцца некаторыя традыц. звычаі, без якіх пагадненне і іншыя падрыхтоўчыя акты не маюць неабходнай сілы. Уласна В. займае галоўнае месца ў сукупнасці вясельнаи абраднасці і характарызуецца багаццем цырымоній. Цэнтр. абрадам В. з'яўляецца звядзенне маладых, што замацоўвае шлюб і злучае іх на ўсе жыццё. Заключная частка цыкла мае гульнявы характар. Ад эпохі родаплемяннога побыту ў бел. В. захаваліся дзве стараж. формы заключэння шлюбу — «выкраданне» і «купля-продаж» нявесты (за жанчыну, якую ў першую чаргу разглядалі як рабочую сілу, патрабавалі плату). «Выкраданне» ў розных варыянтах існавала да пач. 20 ст, яно было своеасаблівым спосабам вырашэння канфліктнай сітуацыі, якая магла ўзнікнуць па сац., этычных і эканам. прычынах. Галоўнай прычынай прыхільнасці беларусаў да вясельнага рытуалу з'яўляўся глыбока ўкаранёны ў іх свядомасці *культ продкаў.* Рэгламент, устаноўлены продкамі і замацаваны стагоддзямі, патрабаваў павагі і дакладнага выканання Для яго было характэрна і тое, што яшчэ ў 17—18 ст пры заключэнні шлюбу карысталіся *звычаевым правам*, хоць праваслаўная царква і дзяржава прызнавалі шлюб, асвячоны царквой. Ва ўяўленні сялян шлюб, замацаваны толькі вянчаннем, не лічыўся сапраўдным без В. Існаванне на Бела-

і сав. рабоце на Беларусі. У 1940—41 нам заг. аддзела кадраў ЦК КП(б)Б, пракурор БССР. У 1941—42 у Чырв. Арміі. З ліп. 1942 прадстаўнік ЦК КП(б)Б і БШПР на Зах. фронце. З жн 1943 упаўнаважаны ЦК КП(б)Б, ЦШПР, 1-ы сакратар *Палескага падпольнага абкома КП(б)Б*, адначасова ў вер. 1943 — сак. 1944 камандзір Палескага партыз злучэння. У 1944—49 пракурор БССР, 1952—53 — Куйбышаўскай вобл., 1953—60 міністр юстыцыі БССР. Чл. ЦК КП(б)Б у 1940—49, канд. у чл. ЦК КП(б)Б у 1954—60. Дэп Вярх. Савета СССР у 1946—50, Вярх. Савета БССР у 1938—63. Ганаровы грамадзянін г Мазыр (1974). Аўтар мемуараў «Браты па зброі» (1965).

**ВЯ́ТЧЫНСКІ БОЙ 1942.** Адбыўся паміж партыз. атрадамі «Чырвоны Кастрычнік» (камандзір Ф. І. Паўлоўскі) і А. І. Даліловіча і гарнізонам ням.-фаш. акупантаў у в. Вятчын Жыткавіцкага р-на ў студз. 1942. Гітлераўцы ператварылі в. Вятчын у апорны пункт, стварылі там буйны гарнізон. 14 студз. партызаны атакавалі веску з 2 бакоў. Пасля непрацяглага бою фашысты кінуліся ўцякаць, але трапілі пад кулямётны агонь партыз. засад. У час бою знішчана каля 50 гітлераўцаў, варожы гарнізон спыніў існаванне У партызан страт не было.

**ВЯ́ЦІЧЫ,** усходнеславянскае племя, якое жыло на У ад *крывічоў, радзімічаў, севяран* у бас. Акі. Паводле летапісных крыніц, В. прыйшлі з ляшскіх (прапольскіх) земель і правадыры радзімічаў і В. (Радзім і Вятка) былі братамі, якія са сваімі родамі аселі — Радзім на Сажы, Вятка на Ацэ. Выяўленыя гарадзішчы і паселішчы В належаць да 8—10 ст., з патрыярхальнародавым ладам жыцця. З 11 ст. развіваліся феад. адносіны У 12 ст. землі В. падзелены паміж суздальскімі і чарнігаўскімі князямі, у 14 ст. ўвайшлі ў склад Маскоўскага вял. княства. Курганы В. 8—10 ст. з трупаспаленнем, у 11—12 ст. пахаванні з трупапалажэннем галавой на З У жаночых пахаваннях шмат упрыгожанняў, з якіх найчасцей сустракаюцца крышталевыя і жоўтыя шкляныя шарападобныя пацеркі, пярсцёнкі ў краты, пласцінчастыя бранзалеты з загнутымі канцамі. Археолагі звяртаюць увагу на падабенства радзімічкага і вяціцкага жаночага ўпрыгожання (племянная адзнака) — 7-праменевага і 7-лопасцевага скроневых кольцаў.

*Літ* Арциховский А В Курганы вятичей М, 1930, Недошивина Н Г К вопросу о связях радимичей и вятичей // Очерки по истории русской деревни X—XIII вв М, 1960 (Тр Гос ист музея, Вып 37), Равдина Т В Семилопастные височные кольца // Проблемы советской археологии М, 1978, Седов В В Восточные славяне в VI—XIII вв М, 1982

*У У Багамольнікаў*

**ВЯЧАСЛА́Ў УЛАДЗІ́МІРАВІЧ** (1083—1155), князь тураўскі, сын *Уладзіміра Усеваладавіча Манамаха.* У 1116 як смаленскі князь у час паходу на мінскага князя Глеба Усяславіча адваяваў Оршу і Копысь. Пасля смерці бацькі (1125) атрымаў Тураўскае княства, дзе княжыў на працягу 20 гадоў з перапынкамі. У 1127 удзельнічаў ва ўзяцці Ізяслаўля у час паходу кіеўскіх князёў на Полацкую зямлю У 1132 княжыў у Пераяслаўлі, адкуль быў выгнаны яго пляменнік Ізяслаў Мсціславіч, але праз год В. У. вярнуўся ў Тураў. У 1135 дапамагаў ў барацьбе кіеўскаму кн. Яраполку супраць чарнігаўскіх князёў Ольгавічаў. Праводзіў палітыку адасаблення Турава ад Кіева. У 1139 безвынікова спрабаваў захапіць кіеўскі пасад. Пасля няўдалай спробы кіеўскага кн. Усевалада ў 1142 захапіць Тураўскую зямлю В. У пакінуў Тураў сыну Святаславу і перайшоў у Пераяслаўль. Незадаволеныя гэтым Ольгавічы напалі на Пераяслаўль, і В. У. вярнуўся ў Тураў, Тады яго пляменнік смаленскі кн. Расціслаў Мсціславіч напаў і паланіў радзімічкую зямлю. Пасля гэтага Усевалад раздаў гарады Тураўскай зямлі (Бярэсце, Драгічын, Клечаск, Рагачоў, Чартарыйск) сваім родзічам. У 1146, калі кіеўскі пасад захапіў Ізяслаў Мсціславіч, *В.* У. самавольна вярнуў гэтыя гарады, захапіўшы таксама і Уладзімір-Валынскі, за што быў пазбаўлены княжання ў Тураве і пераведзены ў Перасопніцу (на Валыні). Пазней, верагодна, быў суправіцелем Ізяслава Мсціславіча на кіеўскім троне. Меў дружыну, карыстацца якой дазваляў кіеўскаму князю. У 1151 і 1154 адмаўляўся ад княжання ў Кіеве на карысць пляменнікаў.

*Літ.* Ермаловіч М Старажытная Беларусь Полацкі і новагародскі перыяды Мн, 1990

*М І Ермаловіч*

**ВЯЧАСЛА́Ў ЯРАСЛА́ВІЧ** (1034—57), смаленскі князь. Пасаджаны на княжанне незадоўга да смерці (1054) свайго бацькі *Яраслава Мудрага.* Гэту падзею некат. даследчыкі лічаць пачаткам адасаблення Смаленскай зямлі, з'яўленне яе як паліт. адзінкі.

*Літ* Ермаловіч М Старажытная Беларусь Полацкі і новагародскі перыяды Мн., 1990

**ВЯЧАСЛА́Ў ЯРАСЛА́ВІЧ** (?—?), клецкі князь. Упамінаецца ў Іпацьеўскім летапісе пад 1127, калі кіеўскі кн. Мсціслаў Уладзіміравіч у кааліцыйным паходзе на Полацкую зямлю накіраваў «Вячьслава ис Турова, Андрѣя из Володимера, Всеволодка из Городна, Вячьслава Ярославича исъ Клъчьска ити къ Ізяславлю», які яны захапілі і абрабавалі. Упамінанне В. Я. сведчыла пра далейшы падзел Тураўскага княства і з'яўленне ў ім клецкага ўдзела.

*Літ* Белоруссия в эпоху феодализма Сб документов и материалов Т 1 Мн, 1959

**ВЯ́ЧКА** (Вячаслаў, лац. Vetscke, ? — 1224), князь *Кукенойса* (Кокнесе) — крэпасці на Зах. Дзвіне, васал полацкага князя. Ёсць меркаванне, што В. паходзіў з дынастыі полацкіх князёў, быў землеўладальнікам. Яго ўладанні ўключалі ворную зямлю і інш. ўгоддзі, а таксама «людзей», якія неслі «службу» на карысць гаспадара. З 1206 прымаў удзел у паходзе полацкага кн. Уладзіміра супраць ням. рыцараў. У 1207 быў вымушаны падпарадкавацца рыжскаму епіскапу Альберту, але крыжакі схапілі яго. У 1208 вызвалены з палону і зноў правіў Кукенойсам. Жыхары горада знішчылі атрад крыжакоў, уведзеяы ў Кукенойс паводле патрабавання епіскапа. В. папрасіў дапамогі ў полацкага кн Уладзіміра. Не дачакаўшыся яе, спаліў замак і з дружынай перайшоў да наўгародцаў. У 1223 на чале атрада ўсходнеслав. войск (200 чал.) быў пасланы ўладамі Ноўгарада і ўладзіміра-суздальскім князем у Юр'еў (сучасны Тарту), адкуль кіраваў большай часткай земель эстаў. У 1224 ням. рыцары пачалі вялікае наступленне на гэтыя землі і асадзілі Юр'еў. В. і яго атраду прапанавалі пакінуць замак, гарантуючы адыход ва ўсходнеславянскія землі, але В. разам з эстамі працягваў абараняцца Ён замацаваўся на дзядзінцы горада і пры апошнім яго штурме загінуў у жорсткім баі.

*Літ* Генрих Латвийский Хроника Ливонии Пер с латин 2 изд М, Л, 1938, Ермаловіч М Старажытная Беларусь Полацкі і новагародскі перыяды Мн, 1990

*Г В Штыхаў*

**ВЯЧО́РКА** Марцін Якаўлевіч (1911, в. Бармуты Пружанскага пав Гродзенскай губ., цяпер Бярозаўскі р-н — 1932), удзельнік рэв. руху ў Зах. Беларусі. Сакратар падп. ячэйкі КСМЗБ. Вёў работу сярод моладзі в Бармуты і навакольных весак супраць паланізацыі, за вызваленне з-пад польскага прыгнету, агітаваў юнакоў не ўступаць у польскае войска, распаўсюджваў нелегальную л-ру. Напярэдадні 1 Мая 1932 арыштаваны дэфензівай і закатаваны. Каб схаваць сляды злачынства, паліцыя інспіравала самазабойства. яго цела было павешана на дрэве ва ўрочышчы каля дарогі. Пахаванне В. вылілася ў вял. дэманстрацыю. На радзіме на яго магіле пастаўлены помнік.

*Літ* Селеня Е В Красные флаги над могилой // Память Ист-докум хроника Березовского р-на Мн, 1987

*Я В Сяленя*

**ВЯЧО́РКІ,** даўні звычай бел. вясковых дзяўчат збірацца асеннімі і зімовымі вечарамі з работай у адной хаце. На В. звычайна пралі (таму іх часам звалі попрадкі, супрадкі), вышывалі. Прыходзілі і хлопцы, якія плялі лапці, вырэзвалі лыжкі. На В. жартавалі, расказвалі цікавыя здарэнні, казкі, паданні, спявалі песні, танцавалі пад гармонік ці скрыпку. В. былі адметнай з'явай грамадскага побыту вясковай моладзі шлюбнага ўзросту.

*Л І Мінько*

**Г**, чацвертая літара беларускага алфавіта. Паходзіць з кірыліцкай Г («глаголь»), што ўзнікла на аснове грэка-візантыйскай устаўнай Г («гама») У старабеларускую графіку перайшла са старажытнарускай пісьменнасці. Абазначала фрыкатыўныя зычныя гукі «г», «г'», пры аглушэнні «х» («вага», «гімнъ», «стогъ»), а ў складзе дыграфа «кг» выбухны гук «г» у запазычаных словах («кгмахъ», «моркгъ»). Мела таксама лічбавае значэнне «тры». У рукапісах 14—17 ст. у сувязі з функцыяніраваннем розных пісьмовых школ і выкарыстаннем розных тыпаў пісьма (устаў, паўустаў, скарапіс) ужывалася ў некалькіх варыянтах, якія памагаюць вызначыць час і месца напісання помнікаў. У 16 ст. дзякуючы выдавецкай дзейнасці Ф. Скарыны, акрамя рукапіснай, набыла друкаваную форму, стала адрозніваіца малая і вялікая, хоць ужыванне вялікай літары ва ўласных імёнах, геаграфічных назвах і ў пачатку сказаў не было яшчэ паслядоўным. У сучаснай беларускай мове абазначае шумныя звонкія фрыкатыўныя заднеязычныя гукі «г», «г'», а пры аглушэнні «х» («гара», «герб», «мурог»). У некаторых запазычаных словах абазначае выбухныя «г», «г'» («ганак», «гірса»). Бывае вялікая і малая, мае рукапісную і друкаваную форму. Ужываецца ў афіцыйных абрэвіятурах — ГКБ, ГЭС, як умоўнае скарачэнне слоў «год» (1192 г), «горад» (г. Мінск). Пры класіфікацыйным падзеле мае значэнне «чацверты» (група «Г»), пры лічбавай нумарацыі — дадатковае значэнне для размежавання прадметаў пад адным нумарам (квадрат № 4 г). *А М Булыка*

**«ГАБДА́НК»**, «А б д а н к», прыватнаўласніцкі герб У чырвоным полі сярэбраны знак у выглядзе лац. літары W. Клейнод — на прылбіцы шляхецкая карона таксама са знакам W або з выяваю пяці пераў страуса. Існуюць шматлікія варыянты гэтага герба. з дадаткам над літарай W крыжа (герб Сыракомлі), стралы, паловы стралы, стралы, якая крыжуе літару W, і г. д. Паводле легендарных звестак, узнік у канцы 11—12 ст. На тэр. ВКЛ асаблівае пашырэнне набыў пасля прыняцця *Гарадзельскага прывілея 1413*. Гербам «Г.» без варыянтаў карысталіся больш за 160 родаў на Беларусі, Украіне, у Літве і Польшчы *А К Цітоў*

Герб «Габданк»

**ГАБРУСЕ́Ў** Аляксей Канстанцінавіч (н. 1.1.1922, в. Гарошкава Дубровенскага р-на), Герой Сав Саюза (1944) З ліст. 1941 на Зах., Варонежскім, 1-м Укр. франтах Удзельнік абароны Масквы, вызвалення Польшчы, Чэхаславакіі. Старшы сяржант Г. вызначыўся пры фарсіраванні Дняпра на Пн ад Кіева У вер. 1943 з групай разведчыкаў пераправіўся цераз раку каля г Вышгарад, разведаў абарончыя ўмацаванні ворага. Калі загінуў камандзір, Г. узначаліў узвод, які адбіў 10 контратак праціўніка і ўтрымліваў плацдарм да падыходу падмацавання. Да 1964 у Сав. Арміі, падпалкоўнік

**ГАВО́РСКІ** Ксенафонт Антонавіч [1821 Кіеў (?) — 17(29).6.1871], беларускі гісторык, археолаг, выдавец. З сям'і уніяцкага святара Скончыўшы Пецярбургскую духоўную акадэмію (1845), праца ваў у Полацкай духоўнай семінарыі У 1857—58 рэдагаваў неафіцыйную частку *«Витебских губернских ведомостей»*. З 1862 у Кіеве, у 1864 па запрашэнні ген.-губернатара М. М. Мураўёва пераехаў у Вільню. У грамадскай і навуковай дзейнасці стаяў на рэакцыйных пазіцыях, ухваляў усе мерапрыемствы царызму ў Паўн.-Зах. краі. Выдаваў пад сваёй рэдакцыяй час. *«Вестник Западной России»*, у якім асуджаў паўстанне 1863—64 у Польшчы, на Беларусі і у Літве. Выступаў супраць паланізацыі Беларусі, але сам актыўна праводзіў русіфікацыю, быў адным з пачынальнікаў *заходнерусізму*. Як археолаг правёў раскопкі курганоў каля Полацка, упершыню ахарактарызаваў іх структуру, вызначыў час узнікнення. Даследаваў курганы ў Лепельскім пав. Апісаў старажытную (т. зв. Альгердаву) дарогу з Полацка на Вільню і помнікі абапал яе. Апублікаваў важныя для гісторыі Беларусі дакументы, арыгіналы якіх потым загінулі. Пісаў пра ўвядзенне хрысціянства ў Полацкім княстве, гісторыю праваслаўных храмаў.

*Тв* Поездка (14 сент 1852) из г Полоцка по направлению, так называемой Ольгердовой дороги, Археологические разыскания в окрестностях г Полоцка // Зап имп Археологического о-ва 1853 Т 5 Древние акты и документы XVI и XVII века , преимущественно относящиеся до Западного края, с примеч и объяснен К Говорского // Витебские губернские ведомости 1858 № 3—8, 12—14, 22—28, 35, 38 Исторические сведения о Полоцком Софийском соборе С двумя отрывками из неизданной истории Полоцкой епархии // Там жа 1858 № 39—52, О введении, распространении и судьбе кальвинизма в Белоруссии // Вестн Юго-Западной и Западной России 1864 Кн 10, апр , Историческое описание Полоцкого Борисоглебского монастыря // Вестн Западной России 1865 Кн 5, нояб

*Літ* Ц ь в і к е в і ч А «Западно-руссизм» Нарысы з гісторыі грамад мыслі на Беларусі ў XIX і пач XX в 2 выд Мн , 1993 К а с п я р о в і ч М Краязнаўства Мн , 1929, А л е к с е е в Л В Очерк истории белорусской дореволюционной археологии и исторического краеведения до 60-х годов XIX в // Сов археология 1967 № 4, К а х а н о ў с к і Г А Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў XVI—XIX стст Мн , 1984 *Г А Каханоускі*

**ГАВЯ́ЗА** Сямен Антонавіч [27.1(8.2) 1883, в. Вязкі Дрысенскага пав. Віцебскай губ.— 16(29).11.1914], поўны Георгіеўскі кавалер Працаваў цесляром. З 1904 на вайсковай службе. У 1-ю сусв вайну падпрапаршчык 7-й роты 97-га пяхотнага Ліфляндскага палка У 1914 узнаг. Георгіеўскім крыжам 4 ступеняў (1-ю ступень атрымаў за выратаванне параненага камандзіра роты). Памер ад ран.

**ГА́ГЕН** Мікалай Аляксандравіч [12(24). 3.1895, в. Лахта Пецярбургскага пав , цяпер у межах Санкт-Пецярбурга —

20.5.1969], удзельнік баёў на Беларусі ў Вял. Айч. вайну, ген.-лейт. (1943). У Чырв. Арміі з 1919. Удзельнік 1-й сусв. і грамадз. войнаў. Скончыў Вышэйшую ваенна-педагагічную школу (1929). З 1930 на камандных пасадах у Чырв. Арміі. У ліп. 1941 153-я стралковая дывізія пад яго камандаваннем утрымлівала абарону на падыходзе да Віцебска (гл. *Віцебска абарона 1941*). З 22 ліп. да вер. 1941 знішчыла каля 200 танкаў, 56 гармат, шмат інш. тэхнікі і жывой сілы праціўніка. За стойкасць пры абароне Беларусі і ў Смаленскай бітве дывізія 18.9.1941 адной з першых удастоена наймення «гвардзейская». Са снеж. 1941 камандаваў Волхаўскай аператыўнай групай, пазней — корпусам, арміямі. У 1947—59 на камандных пасадах у Сав. Арміі.

**ГАДЗІ́ЛАВІЧЫ**, курганны могільнік радзімічаў (10—12 ст.) за 1,5 км на ПнЗ ад в. Гадзілавічы Рагачоўскага р-на. На левым беразе Дняпра. 124 насыпы (было каля 400) дыям. 5—12 м, выш. 0,5—2 м. Вядомы з 1873, абследавалі ў 1892 М. В. Фурсаў і С. Ю. Чалоўскі, даследавалі ў 1930 А. М. Ляўданскі — 12 насыпаў, у 1964 Г. Ф. Салаўёва — 15, у 1981 А. М. Плавінскі і В. Н. Рабцэвіч — 6. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на попельным пласце на гарызонце. Нябожчыкі арыентаваны галавой на З, радзей на У, у адным кургане (разбураным) пахаванне не выяўлена. Пахавальны інвентар: бронзавыя паясныя кольцы, фібулы, нажы, крэсівы, упрыгожанні (бронзавыя 7-прамяневыя кольцы, вітая грыўня, шкляныя бочачкападобныя залачоныя, пасярэбраныя, зонныя пацеркі, бісер, медныя пярсцёнкі, бранзалеты, бронзавыя манетападобныя з выявай галавы быка і сярэбраныя з вушкамі падвескі), рэшткі ганчарнага посуду. На думку Салаўёвай, група мужчынскіх пахаванняў — некропаль дружыннікаў. Побач з могільнікам каля старога рэчышча Дняпра існавала паселішча эпохі Кіеўскай Русі.

*Літ.:* Ляўданскі А. М. Кароткае паведамленне аб доследах культур эпохі жалеза ў БССР у 1930—1931 гг. // Працы секцыі археалогіі Ін-та гісторыі БАН. Мн., 1932. Т. 3; Древности железного века в междуречье Десны и Днепра. М., 1962; Соловьева Г. Ф. Славянские курганы близ г. Рогачева Гомельской области // Краткие сообщения Ин-та археологии АН СССР. М., 1972. Вып. 129; Плавінскі А. М. Курганная група // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1983. № 4.

*А. М. Плавінскі.*

**ГАДЗІ́НА СМУ́ТКУ І МАЎЧА́ННЯ 1989**, грамадская акцыя, прысвечаная памяці ахвяр *чарнобыльскай катастрофы 1986*. Праведзена па ініцыятыве аргкамітэта і груп падтрымкі *Беларускага народнага фронту «Адраджэньне»* 26.4.1989 на пл. Леніна ў Мінску. Акцыя не санкцыянiравана ўладамі БССР. Удзельнікі акцыі (каля 8—10 тыс. чал.) адзначылі 3-ю гадавіну чарнобыльскай бяды маўчаннем. Прамоў не было, гарэлі свечкі, званіў чарнобыльскі звон, прысутныя трымалі чорныя сцягі, харугвы са знакамі радыяцыйнай небяспекі, назвамі населеных пунктаў Беларусі, што пацярпелі ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС, плакаты: «Мае маўчанне — спачуванне тым, хто паспеў чарнобыльскай ахвярай стаць, і тым хто ўмер, і тым, хто хворы, і тым, хто будзе паміраць!» Падобныя акцыі адбыліся таксама ў Бабруйску, Гомелі. У гэты ж дзень у Мінску ў парку імя 50-годдзя Кастрычніка па ініцыятыве Мінскага гар. к-та па ахове прыроды і маладзежнага экалагічнага клуба пры ЦК ЛКСМБ праводзіўся мітынг, прысвечаны гэтай жалобнай даце.

*В. А. Герасімовіч.*

Літара «Г»: 1 — устаў 11 ст., 2 — скорапіс 15 ст., 3 — паўустаў 15 ст., 4 — скорапіс 16 ст., 5 — шрыфт Ф. Скарыны 16 ст., 6 — Статута ВКЛ 1588, 7 — паўустаў 17 ст., 8 — скорапіс 17 ст., 9 — друкаваная 17 ст., 10 — грамадзянская 18 ст.

Гадзіна смутку і маўчання. Мінск. 1989.

**ГА́ДЗЯЦКІ ДАГАВО́Р 1658**, пагадненне, якое вызначала ўзаемаадносіны Украіны і Кароны Польскай. Падпісаны 6(16).9.1658 у г. Гадзяч на Палтаўшчыне. Звязаны з падзеямі *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67*. Ад Польшчы яго падпісалі валынскі кашталян С. К. Бянецкі і смаленскі кашталян Л. К. Еўлашэўскі, ад Украіны — гетман Запарожскага Войска І. *Выгоўскі*. Паводле Г. д. з Кіеўскага, Брацлаўскага і Чарнігаўскага ваяводстваў утваралася асобная дзяржава, што павінна была аб'яднацца з Каронай на прынцыпах федэрацыі, у якой былі Польшча і ВКЛ. Як і ВКЛ, украінская дзяржава магла мець свае грошы. Колькасць Запарожскага Войска скарачалася да 30 тыс. чал. З кожнага казацкага палка (было 14) па 100 казакоў атрымлівалі шляхецтва. Шляхце, што перайшла на бок Б. Хмяльніцкага і Выгоўскага, даравалася амністыя. Жыхарам праваслаўнага веравызнання гарантавалася роўнае з католікамі права займаць кіруючыя дзярж. пасады, а кіеўскі мітрапаліт уключаўся ў склад польскага сената. У Кіеве і ў ВКЛ мусілі быць створаны 2 акадэміі з прафесарамі як праваслаўнага, так і каталіцкага веравызнанняў, але скасаваны езуіцкія школы, ерэтычныя секты. Дазвалялася мець бібліятэкі і друкарні, якія б забяспечвалі насельніцтва праваслаўнай літаратурай. Пасля ратыфікацыі гэтага акта вальным соймам Рэчы Паспалітай шляхта мела права вяртацца ў свае маёнткі на Украіну. Г. д. быў дыпламатычным поспехам абодвух бакоў, яго ўмовы цалкам адпавядалі інтарэсам укр. казацкай старшыны. Аднак, хоць польскі сойм зацвердзіў тэкст гэтага пагаднення, рэальнай сілы яно не набыло, бо ў выніку нар. паўстання 1659 гетман Выгоўскі быў скінуты і ўцёк.

*Літ.:* Костомаров Н. И. Собр. соч. Кн. 1, т. 2. Спб., 1903; История Украинской ССР. Т. 1. Киев, 1956; Історія України в документах і матеріалах. Т. 3. Київ, 1941; Rostowski W. J. Historia Polska od smierci Władysława az do pokoju Oliwskiego. T. 2. Petersburg, Mohylew, 1855.

*Г. М. Сагановіч.*

**ГАДЛЕ́ЎСКІ** Вінцэнт [Вікенцій Іванавіч; 16.11 (паводле інш. звестак 16.12).1898, мяст. Поразава Ваўкавыскага пав., цяпер гар. пасёлак у Свіслацкім р-не — снеж. 1942 (?)], дзеяч беларускага нацыянальнага руху. Каталіцкі святар. Скончыў Віленскую каталіцкую духоўную семінарыю (1912) і Пецярбургскую каталіцкую духоўную акадэмію (1916). У час вучобы ў акадэміі ўдзельнічаў у рабоце бел. культурна-асв. гуртка. У 1916—18 у Мінску, служыў вікарыем пры кафедральным касцёле. Пасля Лют. рэвалюцыі 1917 на з'ездзе бел. нац. арг-цый (сак. 1917, Мінск) абраны ў склад *Беларускага нацыянальнага камітэта*. Адзін з ініцыятараў склікання ў Мінску 24—25.5.1917 з'езда ксяндзоў-беларусаў, на якім заклікаў да стварэння бел. каталіцкай партыі. Прыхільнік беларусізацыі касцёла на Беларусі, адным з першых перайшоў да казанняў на бел. мове. Удзельнік *Усебеларускага з'езда 1917*. Пасля абвяшчэння незалежнасці *Беларускай Народнай Рэспублікі* (сак. 1918) уваходзіў у склад яе Рады. Быў сябрам к-та *Мінскага беларускага народнага прадстаўніцтва*. Адзін з заснавальнікаў і сталых лідэраў *Беларускай хрысціянскай дэмакратыі* (БХД), рэдагаваў газ. «Крыніца» (гл. *«Беларуская крыніца»*). За актыўную нац.-паліт. дзейнасць прымусова пераведзены ў Нясвіж на пасаду

прэфекта польскай гімназіі. З пач. 1920-х гадоў у Вільні, як прадстаўнік БХД уваходзіў у склад віленскага Беларускага иацыяиальнага камітэта. Пры ўдзеле Г. стваралася Віленская бел. друкарня імя Ф. Скарыны. У жн. 1924 прызначаны пробашчам касцёла ў мяст. Жодзішкі Свянцянскага пав., дзе разгарнуў шырокую нац.-рэлігійную і культурную работу, абуджаў у парафіян бел. самасвядомасць. Цярпеў ганенні з боку польскіх улад. 25.6.1925 арыштаваны, пасля непрацяглага зняволення ў віленскай турме Лукішкі выпушчаны пад заклад. У ноч на 30.9.1925 арыштаваны зноў. 1.3.1926 па абвінавачанні ў падбухторванні насельніцтва да бунту і аддзялення бел. зямель ад Польшчы асуджаны Віленскім акр. судом на 2 гады крэпасці (зняволенне заменена штрафам). У сак. 1927 арыштаваны чарговы раз і Варшаўскім судом засуджаны на 2 гады турэмнага зняволення. Пакаранне адбываў у Макатоўскай турме ў Варшаве. Пасля выхаду з турмы (1929) жыў у Вільні, быў капеланам у шпіталі і прэфектам у школе пры кляштары бернардзінак. Браў удзел у грамадска-паліт. і культурна-асв. акцыях БХД і Бел. нац. к-та. На працягу 1920—30-х гадоў рэгулярна выступаў з рэфератамі і артыкуламі навукова-гіст. і мемуарнага характару. У 1930 пераклаў на бел. мову «Новы Запавет» (выдадзены ў Вільні ў 1939). У 1936 Г. не згадзіўся з рэарганізацыяй БХД у Бел. нар. аб'яднанне, у процівагу гэтаму выступіў з ініцыятывай стварэння Бел. нац. фронту. Выдаваў газ. *«Беларускі фронт»*, дзе змясціў шмат сваіх артыкулаў на тэмы міжнар. адносін і бел. жыцця. Лічыў, што вайна, якая набліжалася ў Еўропе, магла мець вынікам кардынальную змену суадносін сіл на кантыненце, і заклікаў бел. патрыётаў быць гатовымі выкарыстаць

В. Гадлеўскі.

магчымы гіст. шанс для рэалізацыі незалежніцкага ідэалу. З пач. 2-й сусв. вайны і акупацыяй Вільні Чырв. Арміяй (вер. 1939) пераехаў у Каўнас (Літва). Напярэдадні далучэння Прыбалтыкі да СССР (чэрв. 1940) згодна з дамоўленасцю з герм. консульствам у Літве нелегальна перайшоў у т. зв. Генерал-губернатарства (акупіраваную гітлераўцамі ўсх. частку Польшчы) і пасяліўся ў Варшаве. Быў ініцыятарам перакідкі на сав. тэрыторыю дыверсійнай групы абвера ў колькасці больш за 50 чал. (т. зв. Першага штурмавога звязу), якую разглядаў як зародак будучай бел. арміі. 19.6.1941 увайшоў у створаны ў Берліне Бел. нац. цэнтр на чале з М. Шчорсам (гл. ў арт. *Беларускае прадстаўніцтва*). З 22.6.1941 працаваў у бел. рэдакцыі Берлінскага радыё. З вер. 1941 у Мінску, гал. школьны інспектар пры ген. камісарыяце Беларусь (да жн. 1942). Уваходзіў у гал. раду *Беларускай народнай самапомачы*. Спрабаваў выкарыстаць супрацоўніцтва з немцамі для мабілізацыі бел. патрыят. сіл. У ноч на 24.12.1942 арыштаваны гітлераўцамі і неўзабаве закатаваны.

*Тв.*: Публіцыстыка: Патрэба нац. ідэі // Спадчына. 1993. № 2.

*Літ.*: Пякарскі А. Сумная гадавіна (Да дзесятай гадавіны арышту і расстрэлу ксяндза Вінцэнтага Гадлеўскага) // Бацькаўшчына (Мюнхен). 1952. 25 снеж.; Пануцэвіч В. Кс. Вінцэсь Гадлеўскі — дзяржаўны муж і правадыр народу // Беларуская царква (Чыкага). 1965. № 28; Тое ж // Спадчына. 1993. № 3, 5—6; Брылеўскі У. Мае сустрэчы з ксяндзом Вінцэнтам Гадлеўскім // Беларус (Нью-Йорк). 1980. № 273; Туронак Ю. Беларусь пад нямецкай акупацыяй: Пер. з пол. Мн., 1993.

*С. С. Рудовіч*

**ГАДУ́ЦІШСКІ РАЁН.** Існаваў з 15 студз. да 25 ліст. 1940 у Вілейскай вобл. Цэнтр—мяст. Гадуцішкі. Скасаваны ў сувязі з перадачай часткі тэр. раёна Літоўскай ССР, астатнія 7 сельсаветаў уключаны ў Пастаўскі р-н.

**ГАДЫ́ЦКІ-ЦВІ́РКА** Кастусь Мардар'евіч [5(17).4.1880, Мінск — ?], беларускі педагог, грамадскі дзеяч. Скончыў Мінскую класічную гімназію (1898), фізіка-матэм. аддзяленне Маскоўскага ун-та (1903). У 1903—23 выкладчык Слуцкай гімиазіі, Дзвінскага і Мінскага рэальных вучылішчаў (апошняе з 1920—5-я Сав. сярэдняя школа), настаўніцкага ін-та (з 1920 — Мінскі ін-т нар. адукацыі), пед. і політэхн. тэхнікумаў, рабфака БДУ. Удзельнік Усебел. з'езда (снеж. 1917, Мінск), на якім павінен быў выступаць з садакладам па сялянскім пытанні. У чэрв. 1918 абраны сябрам камісіі Бел. Нар. Рэспублікі па арганізацыі Бел. ун-та. У кастр. 1918 увайшоў у Бел. вучыцельскі саюз. У 1920 ад Ін-та нар. адукацыі абраны ў склад Мінскай камісіі па ўтварэнні БДУ. Удзельнічаў у падрыхтоўцы выдання «Беларуская навуковая тэрміналогія» («Элементарная матэматыка», 1922, «Слоўнік матэматычнай тэрміналогіі», 1927) і інш. У снеж. 1931 па абвінавачанні ў т. зв. нацыянал-дэмакратызме звольнены з БДУ. Далейшы лёс невядомы.

*У. В. Ляхоўскі*

**ГАЁЎНІК,** службовая асоба ў ВКЛ у 15—16 ст. Сачыў за гаямі з бортнымі дрэвамі, збіраў мядовую даніну, за што атрымліваў адпаведную яе частку. Падпарадкоўваўся намесніку.

**ГА́ЗЕ́ТА,** друкаваиае перыядычиае выданне, якое публікуе матэрыялы пра бягучыя падзеі ў палітычным, эканамічным і культурным жыцці грамадства, адзін з асн. сродкаў сістэмы масавай інфармацыі. Ад інш. выданняў адрозніваецца аператыўнасцю інфармацыі, аб'емам, фарматам, перыядычнасцю. Друкуе афіц. паведамленні, паліт. дакументы, хроніку, каментарыі, інш. матэрыялы, што служаць крыніцай для гіст. даследаванняў.

Як тып выдання Г. склалася ў Еўропе ў пач. 17 ст. У ВКЛ першай была «Газэта літэрацка віленьска» («Gazeta literacka Wileńska» «Віленская літаратурная газета»), заснаваная ў 1760 Віленскай езуіцкай акадэміяй. З 1794 яна выходзіла пад назвай *«Кур'ер літэўскі»* («Kurier Litewski», «Літоўскі веснік») У 1776 пачала выдавацца *«Газэта*

Газета «Беларускія ведамасці». Вільня, 1921.

*Гродзеньска»* («Gazeta Grodzieńska», «Гродзенская газета»), у 1792 — *«Вядомосьці Гродзеньске»* («Wiadomości Grodzieńskie», «Гродзенскія ведамасці»). Гэтыя выданні праводзілі на бел. землях палітыку паланізацыі. Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай і далучэння Беларусі да Расійскай імперыі ў кожным губ. цэнтры былі заснаваны друкаваныя органы губ праўленняў — афіц. выданні на рус. мове. З 1838 выдаваліся Г. *«Виленские губернские ведомости»*, *«Витебские губернские ведомости»*, *«Гродненские губернские ведомости»*, *«Минские губернские ведомости»*, *«Могилевские губернские ведомости»* Выходзілі перыядычныя выданні праваслаўнай царквы *«Полоцкие епархиальные ведомости»* (Віцебск, 1874—1916), «Минские епархиальные ведомости» (1869—1917), «Могилевские епархиальные ведомости» (1883—1917), «Гродненские епархиальные ведомости» (1901—15). У Вільні выдавалася грамадска-паліт., літаратурная і эканам Г. *«Северо-Западное слово»* (1898—1905). Першым нац перыядычным органам была Г. *«Мужыцкая праўда»*, якую выдавалі нелегальна ў 1862—63 К Каліноўскі і яго паплечнікі У 1886—1902 выходзіла першая на Беларусі прыватная легальная грамадска-паліт. і літ. Г. *«Минский листок»*, якая змяшчала артыкулы пра гісторыю і мову беларусаў. У 1898 у 5 зах. губернях Расіі выдавалася 14 газет, у т. л. 3 прыватныя.

У пач 20 ст. на Беларусі ў многіх губ і павятовых цэнтрах выдаваліся газеты розных кірункаў· *«Белорусский вестник»* (1904—05), *«Северо-Западный край»* (1902—05), *«Северо-Западный голос»* (1905—15), *«Северо-Западное слово»* (1915—16), *«Белорусский вестник»* (1912—13), «Бобруйская жизнь», «Бобруйские отклики», «Витебская жизнь», «Витебский вестник», «Витебский голос», «Голос жизни» (Віцебск), «Голос провинции», «Окраина» (абедзве ў Мінску), *«Гомельская мысль»*, *«Гомельский вестник»*, «Лепельский вестник», *«Лидское слово»*, *«Минская речь»*, «Минский голос», «Минский курьер», «Могилевский вестник», «Мозырянин», «Пинский листок», *«Полесская мысль»*, *«Полесье»*, «Полоцкий листок», «Полочанин» *«Северо-Западная жизнь»* У 1906 выдавалася першая на бел. мове легальная Г. *«Наша доля»* З пашырэннем сацыяліст ідэй на Беларусі распаўсюджвалася *«Искра»*. У 1904—07 выдаваўся шэраг газет на рус, польскай і яўрэйскай мовах арг-цыямі РСДРП *(«Полесский листок»)*, СДКПіЛ, ППС на Літве, меншавікоў, сацыялістаў-рэвалюцыянераў, Бунда, канстытуцыйных дэмакратаў.

Рэвалюцыя 1905—07 садзейнічала разгортванню грамадскага руху на Беларусі, у значнай ступені зняла абмежаванні з друкаванага слова. Пасля адмены ў 1905 забароны на беларуска-моўныя публікацыі з'явіліся нац. перыядычныя выданні. Цэнтрам нац. адраджэння і літ жыцця Беларусі стала Г. *«Наша ніва»*, якая выдавалася ў Вільні ў 1906—15. У Вільні друкаваліся таксама Г *«Белая Русь»*, *«Беларус»*, «Гоман» (1916—17). У 1912—14 на Беларусі распаўсюджвалася Г *«Правда»* У 1-ю сусв вайну і пасля перамогі Лютаўскай рэвалюцыі 1917 выдаваліся армейскія газеты «Известия комитета Западного фронта» (Мінск, 1916—17), «Последние армейские известия» (Полацк, 1915—17), а таксама «Наша газета», «Фронт», «Известия фронтового комитета работников Красного Креста Западного фронта» (Мінск), «Вестник Главного комитета Союза офицеров армии и флота» (Магілеў), «Известия исполнительного комитета 2-й армии», *«Голос III армии»*, *«Голос X армии»*, «Известия полкового комитета 685 Логишинского полка», «Известия Виленского округа путей сообщения» (Бабруйск) У Петраградзе ў 1916 выходзілі бел. Г. *«Дзянніца»*, *«Светач»*

Развіццё нац. руху на Беларусі ў ходзе рэв. падзей 1917 абумовіла з'яўленне выданняў нац.-дэмакр. кірунку *«Вольная Беларусь»*, *«Грамада»*, *«Беларускі шлях»* (1918). Г. стала дзейсным сродкам барацьбы розных партый за пашырэнне сваіх ідэй. Выдаваліся Г. «Звезда» (гл *«Звязда»*), «День», «Луч», *«Минский голос»*, «Минская жизнь», *«Минский курьер»*, *«Минская мысль»*, *«Минская газета»*, «Наш вестник», *«Вестник Минского губернского комиссариата»*, *«Социалист-революционер»*, *«Крестьянская газета»*, *«Витебский листок»* (1916—19), «Крестьянское слово» (Магілёў), *«Голос народа»* (Гомель), *«Голос народа»* (Бабруйск), «Бобруйский курьер», «Оршанский вестник», «Новая жизнь» (Орша), «Мстиславский голос». Выходзілі Г. Саветаў рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў *«Известия Минского Совета рабочих и солдатских депутатов»*, *«Известия Бобруйского Совета рабочих и солдатских депутатов»*, *«Известия Мозырского Совета рабочих и солдатских депутатов»* і інш. У сак 1918 пачала выдавацца Г *«Дзянніца»* Ва ўмовах грамадз вайны выдаваліся «Известия революционного комитета г Гомеля и уезда» (1919), «Известия военно-революционного комитета Социалистической Советской Республики Белоруссии» (1920), «Набат» (Орша), «Соха и молот» (Магілеў), «Факел» (Сянно), *«Революционная ставка»* (Магілеў).

З пачаткам мірнага будаўніцтва ў 1920 створана шырокая сетка Г., якія з'яўляліся афіц. органамі Саветаў і парт. к-таў усіх узроўняў, што вызначала змест і задачы гэтых выданняў. У Мінску выходзілі Г «Беларуская веска», «Рабочий» (гл. *«Советская Белоруссия»*), «Красная смена» (гл. *«Чырвоная змена»)*, Віцебску — «Заря Запада» (гл. *«Віцебскі рабочы»*), Гомелі — «Полесская правда» (гл *«Гомельская праўда»*) і інш У 1925 у БССР выдаваліся 42 Г разавым тыражом 200 тыс экз. У 1920-я гады ў ходзе беларусізацыі большасць цэнтр. і мясцовых Г. пераведзена на бел. мову Развіваўся нізавы друк Выдаваліся акр газеты — органы акр. к-таў КП(б)Б і акрвыканкомаў. «Віцебская сялянская газета», «Віцебскі пралетарый», «Вясковая праўда» (Барысаў), «Камунар Магілеўшчыны», «Камуніст» (Бабруйск), «Магілеўскі селянін», «Новая деревня» (Гомель), «Чырвоная Полаччына» (гл *«Полацкі веснік»*) і інш.

Газета «Беларускі звон» Вільня, 1932

У пач. 1930-х гадоў на базе б. акруговых, шматтыражных калгасна-саўгасных і некаторых фабрычных Г. пачалі выходзіць раённыя. У 1933 праведзена рэарганізацыя рэспубліканскіх Г. У 1933—34 створана каля 100 шматтыражных Г.— органаў палітаддзелаў МТС і саўгасаў. З утварэннем абласцей (1938) пачалі выдавацца абласныя Г., а таксама «Сталинская молодёжь» (гл. *«Знамя юности»*). У 1940 у БССР выходзілі 252 Г. гадавым тыражом 192,7 тыс. экз.

У Зах. Беларусі ў 1921—39 выдаваліся Г. розных партый і рухаў: *«Беларускія ведамасці»* (1921—22), *«Наша будучыня»* (1922—23), *«Вольны сцяг»* (1923), *«Саха»* (1923), *«Змаганне»* (1923—24), *«Сялянская праўда»* (1924), *«Чырвоны сцяг»* (1924—28), *«Малады камуніст»* (1924—37), *«Жыццё беларуса»* (1925), *«Беларуская ніва»* (1925—26), *«Беларуская справа»* (1926), *«Наша праўда»* (1927), *«Праца»* (1927), *«Народны звон»* (1926—27), *«Наша воля»* (1927), *«Новы шлях»* (1929—37), *«Родны край»* (1933—36), *«Наша воля»* (1935—36), *«Крыніца»* (1938) і інш. Большасць Г. Зах. Беларусі выдавалася ў Вільні.

У Вял. Айч. вайну на акупіраванай тэр. Беларусі былі створаны падп. друкарні і наладжаны выпуск Г. (гл. ў арт. *Друк падпольны*). На акупіраванай тэр. Беларусі распаўсюджваліся Г., што выдаваліся ў савецкім тыле: *«За Савецкую Беларусь»*, *«За свабодную Беларусь»*, сатырычная Г.-плакат *«Раздавім фашысцкую гадзіну»* і інш. Пад кантролем германскіх акупац. улад выдаваліся *«Беларуская газэта»*, *«Беларускае слова»* і інш.

У пасляваен. перыяд адноўлена сетка абл., раённых, гар. і аб'яднаных Г., створаны новыя выданні ў Бабруйскай, Гродзенскай, Маладзечанскай і Полацкай абл. У 1945 на Беларусі выдавалася 195 Г. гадавым тыражом 98 670 тыс. экз. Пачалі выходзіць *«Мінская праўда»*, «Савецкі селянін», «За вяртанне на Радзіму» (гл. *«Голас Радзімы»*). У 1950—53 выдаваліся 124 шматтыражныя Г. палітаддзелаў МТС у зах. абласцях. У 1955 у БССР выдавалася 218 Г. гадавым тыражом 233,2 млн. экз. Пасля ўтварэння тэрытарыяльных калгасна-саўгасных упраўленняў (крас. 1962) замест раённых выдаваліся міжраённыя Г.— органы абкомаў КПБ і абл. Саветаў дэпутатаў працоўных. У 1963 Г. рэарганізаваны ў органы парт. к-таў калгасна-саўгасных упраўленняў і раённых Саветаў дэпутатаў працоўных і ў аб'яднаныя — органы райкомаў і гаркомаў КПБ, раённых і гар. Саветаў. У 1965 зноў адноўлены раённыя газеты. З 1967 выходзяць гар. Г. *«Вячэрні Мінск»*, *«Хімік»* (Наваполацк). У 1980 на Беларусі выдаваліся 193 Г., у т. л. 11 рэспубліканскіх, 6 абл., 11 аб'яднаных, 3 гар., 106 раённых, 54 шматтыражныя.

Г. Дз. Гай.

З канца 1980-х гадоў пачынаюць выходзіць самавыдавецкія Г.

З абвяшчэннем Рэспублікі Беларусь (1991) і адменай манаполіі КПБ на друкаванае слова пачалася перабудова сеткі перыяд. выданняў, заснаваны новыя Г. самай разнастайнай тэматыкі (галіновыя, ведамасныя, прыватныя, органы новых партый і рухаў): *«Навіны БНФ»*, *«Свабода»*, *«Выбар»*, *«Згода»*, «Грамада», «Свободные новости», «Мы и время», «Славянские ведомости», «Политика, позиция, прогноз», «Европейское время» і інш. У 1993 на Беларусі выдавалася 491 Г., у т. л. 120 раённых і аб'яднаных. Большасць буйных выданняў (*«Літаратура і мастацтва»*, *«Народная газета»*, *«Рэспубліка»*, *«Наша слова»* і інш.) значнае месца адводзяць гіст. тэматыцы, праблемам адраджэння нац. культуры і мовы.

*Літ.:* Библиография периодических изданий России, 1901—1916. Т. 1—4. Л., 1958—61; Периодическая печать Белоруссии, 1817—1916 гг.: Библиогр. указ. Мн., 1960; Перыядычны друк Беларускай ССР. Вып. 2. Газеты (1917—1959 гг.). Мн., 1960; Цікоцкі М. Я. З гісторыі беларускай журналістыкі XIX ст. Мн., 1960; Марцелев С. В. Печать Советской Белоруссии (Ист. очерк). Мн., 1967; Александровіч С. Х. Пуцявіны роднага слова. Мн., 1971; Говін С. В. Друк Заходняй Беларусі (1921—1939 гг.). Мн., 1974; Падпольныя перыядычныя выданні на Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны: Бібліягр. паказ. / Склад. В. С. Адамовіч. Мн., 1975; Булацкі Р. В., Сачанка І. І., Говін С. В. Гісторыя беларускай журналістыкі. Мн., 1979; Периодические издания Белоруссии в фонде правительственной библиотеки им. А. М. Горького. Мн., 1980; Перыядычны друк Беларусі. Мн., 1981; Публицистика белорусских народников. Мн., 1983; Газеты Беларускай ССР. Ч. 1—2. Мн., 1984—85; Периодическая печать в России в 1917 году: Библиогр. указ. Ч. 1—3. Л., 1987; К. Калиновский: Из печатного и рукописного наследия. Мн.,1988. *С. В. Говін.*

**«ГАЗЭ́ТА ГРОДЗЕ́НЬСКА»** («Gazeta Grodzieńska»), першае перыядычнае выданне на тэр. Беларусі. Выдавалася з мая 1776 да 1783 (?) у Гродне на польскай мове раз у тыдзень на 2 старонках фарматам 15×20 см. Друкавалася ў Гродзенскай друкарні. У выключных выпадках (напр., у час падарожжа Кацярыны II па Беларусі) аб'ём яе павялічваўся ўдвая. У перадавых артыкулах абмяркоўваліся надзённыя грамадска-паліт. праблемы, што на той час было унікальнай з'явай. Па патрабаванні караля Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста Панятоўскага ў Гродне была ўведзена пасада газетнага цэнзара, пад націскам якога рэдакцыйныя артыкулы замяняліся паведамленнямі з інш. выданняў. Змяшчала інфармацыю пра падзеі ў горадзе (канцэрт і ілюмінацыя 17.1.1779), аб'явы. Апошні выяўлены нумар газеты ад 28.12.1780.

*Літ.:* Мальдзіс А. І. На скрыжаванні славянскіх традыцый. Мн., 1980. С. 243—244.

**«ГАЗЭ́ТА СЛУ́ЧЧЫНЫ».** Выдавалася з 14.3.1943 да 18.6.1944 у Слуцку на бел. мове пад кантролем германскіх улад у перыяд акупацыі Беларусі ням.-фаш. захопнікамі ў Вял. Айч. вайну. Выходзіла раз на тыдзень. Адказныя рэдактары Р. Казак, У. Клішэвіч, Л. Случанін. Змяшчала матэрыялы пра падзеі на франтах 2-й сусв. вайны і ў свеце, пра барацьбу акупантаў і паліцыі супраць партызан, антысав. і антысеміцкую публіцыстыку. Вял. ўвагу аддавала антысталінскай тэматыцы (успаміны «На Калыме» і «Цяжкія часы» Клішэвіча, «У Бамлагу» Н. С. Гапановіча і інш.). На старонках газеты змешчаны нарысы пра судовы працэс над Ю. Лістападам, жыццё і дзейнасць Б. Эпімаха-Шыпілы, вершаваныя творы Я. Золака, Клішэвіча, А. Крата, Случаніна, Б. Явара і інш., с.-г. парады. Выйшла 66 нумароў.

*С. У. Жумар*

**ГАЙ** Гая Дзмітрыевіч [сапр. Бжышкян Гайк; 6(18).2.1887, Тэбрыз, Іранскі Азербайджан — 11.12.1937], савецкі ваенны дзеяч, камкор (1935). Праф. (1933). Удзельнік 1-й сусв. вайны, прапаршчык. Чл. РКП(б) з 1918. З 1918 камандзір 1-й зводнай Сімбірскай пях. дывізіі (пазней 24-я стралк.), з 1919 камандуючы 1-й арміяй Усх. фронту. Удзельнік баёў з белачэхамі, Калчаком, Дутавым. З чэрв. 1920 на Зах. фронце камандзір (з ліп.) 3-га коннага корпуса. У *савецка-польскую вайну 1920* корпус Г. прайшоў па тылах праціўніка 810 км. У выніку паражэння Чырв. Арміі ў *Варшаўскай аперацыі 1920* Г. не здолеў прабіцца на У і быў інтэрніраваны ва Усх. Прусіі. У кастр. 1920 вярнуўся на радзіму. З 1922 нарком па ваен. справах Арменіі. З 1923 камандзір і ваенком 7-й Самарскай кав. дывізіі, якая размяшчалася на Беларусі. У 1924 адрадзіў 3-і конны корпус, названы імем БССР (штаб знаходзіўся ў Мінску). Узнаг. 4 ордэнамі Чырв. Сцяга. У 1927 скончыў Ваен. акадэмію імя Фрунзе. З 1933 выкладчык, нач. кафедры Ваенна-паветр. акадэміі. Чл. ЦВК БССР у 1924—25. Аўтар прац і нарысаў па гісторыі грамадз. вайны. У 1935 незаконна арыштаваны, у 1937 расстраляны. Рэабілітаваны пасмяротна. Яго імем названы вуліцы ў Мінску і Гродне.

*Тв.:* Первый удар по Колчаку: (Воен.-ист. очерк). [Л], 1926; На Варшаву! Действия 3-го конного корпуса на Западном фронте

Воен.-ист. очерк. М.; Л., 1928; В боях за Советскую Белоруссию // Неман. 1987. № 3.

*Літ.:* Шумейка М. Ф. Камандзір жалезнай дывізіі // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1987. № 1.

**ГАЙДУ́К** Мікола (Мікалай Раманавіч; н. 29.5.1933, в. Кабылянка Беластоцкага ваяв., Польшча), беларускі пісьменнік. Скончыў БДУ (1959). У 1959—64 выкладчык бел. і рус. моў і літаратур, лац. мовы, у 1965—71 дырэктар Бельскага бел. ліцэя. З 1971 супрацоўнік, з 1986 нам. рэдактара бел. тыднёвіка «Ніва» (Беласток, Польшча). Пісаць пачаў у 1957. Друкуецца ў «Ніве», гадавіках «Беларускі каляндар» (некаторыя з іх складзены або адрэдагаваны Г.), альманаху «Белавежа», польскіх перыяд. выданнях. Творчасць Г. прысвечана пераважна гіст. мінуламу бел. і суседніх народаў, паўстанню 1863—64 на Беласточчыне. Аўтар арт. «А. Міцкевіч аб Беларусі і беларусах» (1958), «Беларуская народная творчасць Беласточчыны» (1961), «Гутаркі па роднай гісторыі» (1967, 1968), «Адкуль узяліся нашыя імены» (1970), «Беларуская матэрыяльная культура ў Кракаве» (1974), «Гістарычныя візіі У. Караткевіча» (1979) і інш. Збірае і публікуе бел. песні (з нотамі), казкі, легенды. Перакладае з польскай і лац. моў. Многія нарысы, эсэ і артыкулы Г. прысвечаны дзеячам бел. культуры П. Броўку, І. Буйніцкаму, І. Дварчаніну, У. Дубоўку, М. Забэйду-Сумміцкаму, Л. Кандратовічу, Я. Ф. Карскаму, Я. Купалу, Л. Родзевічу, М. Танку, Г. Цітовічу і інш.

*Тв.:* Паратунак. Гіст. эсэ. Мн., 1993. 1993. *А. В. Мальдзіс.*

**ГАЙДУЧО́НАК** Любоў Георгіеўна (1921, в. Берлеж Пухавіцкага р-на — 22.5.1943), адзін з арганізатараў камсамольска-маладзежнага падполля і партыз. руху на Беларусі ў Вял. Айч. вайну. Напярэдадні вайны вучылася ў Мінскім педінстытуце, працавала настаўніцай. З 28.7.1942 упаўнаважаная ЦК ЛКСМБ па Мінскім р-не. З 1.9.1942 чл. *Мінскага падпольнага міжрайкома ЛКСМБ* і Мінскага падп. РК ЛКСМБ. 22.5.1943, вяртаючыся з групай партызан з задання, трапіла ў засаду ў в. Плябанцы Мінскага р-на. Параненая, загінула, прыкрываючы адыход таварышаў. Пахавана ў в. Плябанцы. У г. Мар'іна Горка ей пастаўлены помнік, яе імем названы сквер, школы ў Мар'інай Горцы, Мінску і в. Гарэлец Пухавіцкага р-на.

**ГАЙКО́** Андрэй Самуілавіч [21.1.1920, с. Карасай Акбулакскага р-на Арэнбургскай вобл. — 26.12.1943], Герой Сав. Саюза (1944). Удзельнік сав.-фінляндскай вайны 1939—40. У Айч. вайну на фронце з 1941. Камандзір стралк. ўзвода лейтэнант Г. вызначыўся 26.12.1943 у баях каля в. Пяленкі Суражскага (цяпер в. Задзвінне Віцебскага) р-на. З групай байцоў (7 чал.) за 4 гадз бою адбіў 10 контратак праціўніка. Калі астаўся адзін і скончыліся боепрыпасы, падпусціў гітлераўцаў бліжэй і 2 процітанкавымі гранатамі падарваў іх і загінуў сам. Пахаваны ў в. Задзвінне ў брацкай магіле воінаў і партызан. Яго імем названы вуліца ў р. п. Акбулак і школа ў пас. Карасай.

А. С. Гайко.

**ГАЙКО́ЎКА**, паселішча позняга мезаліту (5-е тысячагоддзе да н. э.) каля в. Гайкоўка Касцюковіцкага р-на. За 0,5 км на ПдЗ ад вёскі, у басейне р. Беседзь. У навук. л-ры вядома пад назвай Печанегі (балота). Выявіў у 1926, даследаваў у 1930 К. М. Палікарповіч, у 1972 В. Ф. Капыцін. Культурны пласт залягае пад ворывам на глыбіні 0,4—0,5 м. Знойдзена больш за 2000 прадметаў крамяневага інвентару (тронкавыя наканечнікі стрэл, бакавыя, вуглавыя і сярэдзінна-вуглавыя разцы, канцавыя, паўкруглыя і двайныя скрабкі, скрэблападобныя прылады, авальныя сякеры і цеслы, пласціны-ўкладышы, вырабы з выемкамі, праколкі і вастрыі). Апрацоўка крэменю рабілася непасрэдна на паселішчы, аб чым сведчыць вял. колькасць нуклеусаў, пласцін і адшчэпаў.

*Літ.:* Палікарповіч К. М. Неалітычная стаянка каля балота Печанегі на Калінінішчыне. Мн., 1927; Яго ж. Доследы культур каменнага і бронзавага перыядаў у БССР у 1930—1931 гг. // Працы секцыі археалогіі Ін-та гісторыі БАН. Мн., 1932. Т. 3; Копытин В. Ф. Поздний мезолит Посожья // Изыскания по мезолиту и неолиту СССР. Л., 1983. *В. Ф. Капыцін.*

**ГА́ЙЛІТ** Індрык Юр'евіч [11(23).5.1894, Рыга — 28.3.1987], удзельнік грамадз. вайны на Беларусі. З мая 1919 камандзір карабля Дняпроўскай ваен. флатыліі. У сав.-польск. вайну 1920 вызначыўся ў час *Лоеўскага прарыву 1920* як камандзір кананеркі «Мстительный», узнаг. ордэнам Чырв. Сцяга. Пасля грамадз. вайны на рачным і марскім транспарце.

**ГА́ЙНА**, вёска, цэнтр сельсавета ў Лагойскім р-не. За 10 км ад Лагойска, 45 ад чыг. ст. Смалявічы. 492 жыхары, 214 двароў (1992).

Упершыню ўпамінаецца гісторыкам 15 ст. Я. Длугашам сярод велікакняжацкіх уладанняў, у якіх былі заснаваны першыя на тэр. ВКЛ касцёлы. У Г. касцёл быў заснаваны, верагодна, кн. Вітаўтам пасля 1397. Першапачаткова Г. (Айна) уваходзіла ў склад Лагойскага княства. У сярэдзіне 15 ст. належала пляменніку Вітаўта Андрэю Уладзіміравічу, каля 1457 — яго ўнучцы Фядоры Рагацінскай, з 1512 дзярж. маёнтак у Віленскім ваяв., дзяржаўцамі якога былі Яцка Ратамскі (1516—24), Васіль Чыж (1525—38), Мікіта Андрэевіч (1538—41), кн. Іван Саламярэцкі (1541—52), з 1552 — яго брат Багдан. Паводле перапісу войска 1528, цэнтр невялікай акругі Г. выстаўляў 14 узброеных коннікаў. Пасля адм. рэформы 1565—66 дзярж. мястэчка, цэнтр староства ў Мінскім пав., якім валодалі Васіль Тышкевіч і яго дзеці, Крыштоф Радзівіл Пярун (1598—1603), М. Б. Сапега (1605—38), яго сын Тамаш (1638—46), пан Кімбар і яго зяць Д. У. Цеханавецкі (2-я пал. 17 ст.), М. Валодкавіч (3-я чвэрць 18 ст.) і інш. У 1788 пабудаваны новы мураваны касцёл. Пасля далучэння Беларусі да Расійскай імперыі (1793) Г. ў Докшыцкім, з 1796 у Барысаўскім пав. Пасля 1861 мястэчка, цэнтр Гайна-Слабодскай вол. Барысаўскага пав. У 1865 касцёл ператвораны ў царкву. У 1909 было 889 жыхароў, 116 двароў. З 20.8.1924 цэнтр сельсавета Лагойскага р-на. З ліп. 1941 да ліп. 1944 акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1970 было 915 жыхароў, 256 двароў. Цэнтр калгаса «Гайна». У вёсцы сярэдняя школа, бібліятэка, Дом культуры, дзіцячы сад, бальніца, аддз. сувязі, магазіны; магіла сав. воінаў, помнік землякам, што загінулі ў Вял. Айч. вайну. *В. Л. Насевіч.*

**ГА́ЙНАЕ**, у г а й н а е, грашовы падатак сялян на Беларусі ў 16 — пач. 19 ст. Уносіўся за права карыстання ляснымі ўгоддзямі зямельных уласнікаў. Напр., сяляне фальварка Барсукі Менскага ваяв. ў 1788 сплачвалі Г. ў памеры 6 злотых з валокі, фальварка Цалевічы Навагародскага ваяв. ў 1792—4 злотыя з валокі.

*Літ.:* Лойка П. А. Прыватнаўласніцкія сяляне Беларусі. Эвалюцыя феадальнай рэнты ў другой палове XVI—XVIII ст. Мн., 1991. С. 72. *П. А. Лойка.*

**ГАЙЦЮ́НІШСКІ ДОМ-КРЭ́ПАСЦЬ**, помнік грамадзянскага будаўніцтва пач. 17 ст. Узведзены ў 1611—12 на паўд. ускраіне в. Гайцюнішкі Воранаўскага р-на на левым беразе р. Жыжмы. Пабудаваны з цэглы па ўласным праекце яго ўладальніка, будаўніка і начальніка каралеўскіх збудаванняў у Вільні П. Нонкатара сумесна з інжынерам-фартыфікатарам Ван Дадэнам. Пабудову абкружалі абарончыя збудаванні бастыённага тыпу і роў, запоўнены вадой. Будынак прамавугольны ў плане, 2-павярховы, пад высокім вальмавым дахам. Па цэнтры гал. фасада размешчана 3-павярховая прамавугольная ў плане вежа, пазней да яе прыбудаваны ганак у выглядзе невысокага кубічнага аб'ёму з арачнымі праёмамі і тэрасай наверсе. Па вуглах будынка размешчаны цыліндрычныя вежы з шатровымі завяршэннямі і вузкімі вокнамі-байніцамі.

У 1986 помнік даследавала арх.-археа-

(1951), Акадэмію Генштаба (1959). У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 на Паўд., Паўд.-Зах., Сталінградскім, 4-м Укр, 3-м і 1-м Бел. франтах камандзір звяна, эскадрыллі знішчальнага авіяпалка. Удзельнік абароны Адэсы, Сталінградскай бітвы, вызвалення Данбаса, Крыма, Беларусі, Усх.-Прускай і Берлінскай аперацый Зрабіў 457 баявых вылетаў, правеў 125 паветр. баеў, збіў 43 самалеты праціўніка. Пасля вайны на адказных пасадах у Сав. Арміі. У Гомелі і Буда-Кашалеве помнікі Г. Яго імем названы вуліцы ў Гомелі, Буда-Кашалеве, ГПТУ у Гомелі, саўгас у Буда-Кашалеўскім р-не.

**ГАЛАВЕ́НЧЫЦЫ**, веска ў Чавускім р-не За 14 км на ПдЗ ад Чавусаў, 10 км ад чыг. ст. Чавусы. 201 жыхар, 102 двары (1992).

Упершыню ўпамінаецца ў інвентары 1560 як сяло ў Магілеўскай воласці; дзярж. уласнасць ВКЛ, 11 дымоў. У 1563 перададзена ў часовае валоданне шляхціцу, у 1580 у пажыццевае валоданне В. Нямеру. У пач. 17 ст. дзярж. уласнасць. Паводле 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1771) адышла да Расійскай імперыі. У 1785 цэнтр памешчыцкага маентка Чавускага пав. Магілеўскага намесніцтва; 438 жыхароў, 58 двароў, драўляная царква. У 1848 48 двароў, у 1858—104 рэвізскія душы. У 1863—72 дзейнічала школа; існавалі вадзяны млын, карчма, частка вяскоўцаў займалася кавальскім промыслам. У 1885 веска ў Чавускай воласці, 256 жыхароў, 52 двары. Адзін раз на год (8 верасня) праводзіўся кірмаш. У 1891 адкрыта царкоўнапрыходская школа У 1897 у весцы 464 жыхары, 71 двор; у аднайменным фальварку 3 жыхары, 2 двары; на сядзібе царкоўнаслужыцеляў 10 жыхароў, 2 двары. У 1905 адкрыта казенная вінная крама. У 1909 482 жыхары, 76 двароў; у фальварку ген.-маера П. Я. Радзіенава 9 жыхароў, 1 двор. Пасля Кастр. рэвалюцыі створана працоўная школа 1-й ступені (114 вучняў у 1925), дзейнічаў пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. З 20.8.1924 да 16 7 1954 Г — цэнтр сельсавета Чавускага р-на. У 1920-я г. ў весцы дзейнічала садова-агароднае таварыства. 1 10. 1930 арганізаваны калгас «Партызан». У 1940 было 440 жыхароў, 126 двароў. У Вял Айч вайну з ліп 1941 да 24.6 1944 акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія ў ліст. 1943 спалілі 122 двары, загубілі 13 жыхароў. Пасля вайны адноўлена. Цэнтр саўгаса «Галавенчыцы». У весцы пачатковая школа, клуб, бібліятэка, фельчарска-акушэрскі пункт, аўтаматычная тэлефонная станцыя, магазін Брацкая магіла сав. воінаў

*М Б Батвіннік*

**ГАЛАВІ́НСКІ** Аляксандр Кузьміч (кастр. 1886, в. Муравілле Клімавіцкага пав Магілеўскай губ., цяпер Касцюковіцкі р-н — ?), дзеяч беларускага нацыянальнага руху. Скончыў Кіеўскі політэхн. ін-т (1912). За ўдзел у студэнцкім рэв. руху быў арыштаваны. Прымыкаў да партыі эсэраў. У 1-ю сусв. вайну служыў

П Р Галавач.

М М Галадзед.

у паветраплавальным батальене. З 1918 чл. прэзідыума Кіеўскай бел. рады і заг. бюро па ўладкаванні бежанцаў, прадстаўнік урада БНР на Украіне. У канцы 1918 камандзіраваны ў Гродна ў распараджэнне ўрада БНР як прадстаўнік укр. беларусаў. Быў саветнікам па тэхніка-эканам. пытаннях у Мін-ве замежных

Галаснікі 12 ст з Гродзенскай Барысаглебскай царквы

спраў урада БНР. У 1919 арыштоўваўся румынскімі ўладамі. З 1921 у Літве старшыня Бел. нац. сувязі, замежнага ЦК Бел. партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў (існавала ў Коўне), Бел нац. к-та, уваходзіў у *Беларускае брацтва*, выдаваў час. *«Поклич»* Адзін з арганізатараў Бел. паліт. канферэнцыі ў Празе (1921). У 1923—25 працаваў інжынерам у Коўне. Удзельнічаў у ліквідацыі ўрада БНР у кастр. 1925. У 1927 арыштаваны літ. ўладамі. Пасля вызвалення пераехаў у Мінск, дзе працаваў у ВСНГ Беларусі, НДІ прамысловасці. 19.7.1930 арыштаваны ДПУ БССР па справе *«Саюза вызвалення Беларусі»* Паводле пастановы калегіі АДПУ БССР ад 10.4.1931 сасланы на 5 гадоў у Ніжні Ноўгарад. Далейшы лес невядомы. Рэабілітаваны 10.6.1988 Вярх судом БССР

*У М Міхнюк*

**ГАЛАДЗЕ́Д** Мікалай Мацвеевіч [9(21) 5.1894, с. Стары Крывец Навазыбкаўскага пав. Чарнігаўскай губ, цяпер Навазыбкаўскі р-н Бранскай вобл.— 21.6. 1937], партыйны і дзярж. дзеяч БССР. Скончыў рабфак Горацкага с-г ін-та. У 1-ю сусв. вайну ў арміі. Пасля Лют рэвалюцыі 1917 чл. салдацкіх к-таў на Паўд.-Зах фронце. Удзельнік Кастр. рэвалюцыі 1917 і грамадз. вайны. У 1918 уступіў у Камуніст. партыю. У 1918—21 на сав. рабоце ў Навазыбкаўскім пав. У 1921—24 старшыня выканкома Горацкага Савета, старшыня тройкі па барацьбе з бандытызмам. Чл Часовага Бел. бюро ЦК РКП(б) у лют.— маі 1924, 2-і сакратар ЦК КП(б)Б з 12 12 1925, Старшыня СНК БССР з 7 5 1927 да 30.5.1937. Канд. у чл. ЦК ВКП(б) з 1930. Чл. ЦК КП(б)Б з 1924 і Бюро ЦК КП(б)Б з 12.12.1925. Чл. ЦВК СССР і ЦВК БССР з 1924, чл. Прэзідыума ЦВК БССР з 1927 14.6.1937 арыштаваны органамі НКУС у Маскве Накіраваны ў Мінск, дзе ў час чарговага допыту 21.6.1937 выкінуўся з акна 5-га паверха будынка НКУС. Рэабілітаваны ў 1956. Яго імем названы вуліца і праезд у Мінску

*Літ* Якутов В Д Н М Голодед Страницы биогр Мн, 1981, Страницы истории Компартии Белоруссии суждения, аргументы, факты Мн, 1990

*М Ф Шумейка*

**ГАЛАМБЕ́ЎСКІ** (Gołębiowski) Лукаш (13.10 1773, в. Пагост, Піншчына — 7 1.1849), польскі гісторык, этнограф, архівіст. У працах «Люд польскі, яго звычаі, забабоны» (1830), «Гульні і забавы розных саслоўяў ва ўсім краі або ў некаторых толькі правінцыях» (1831), «Гісторыя Польшчы» (т. 1—3, 1846—48) апісаў лад жыцця, побыт, абрады, адзенне, нар святы і фальклор розных этнічных груп (палякаў, беларусаў, украінцаў, рускіх) Рэчы Паспалітай у межах 1772 Прытрымліваўся кансерватыўных поглядаў.

*В К Бандарчык*

**ГАЛАСНІКІ**, керамічныя пасудзіны ў выглядзе высокага збана ці амфары з

доўгім высокім горлам, якія ўмуроўвалі ў сцены і скляпенні храмаў горлам у інтэр'ер. Г. паляпшалі акустыку памяшкання, аблягчалі мураваную сцяну. На Беларусі вядомы з 12 ст., выкарыстаны ў муроўцы сцен гродзенскіх Барысаглебскай і Ніжняй цэркваў.

*Літ.:* Ворошин Н. Н. Древнее Гродно, М., 1954 (Материалы и исслед. по археологии СССР; № 41).

**ГАЛАЎНЫ́Я ЎБО́РЫ**, састаўная частка адзення. У мінулым адлюстроўвалі сацыяльнае, а жаночыя — і сямейнае становішча чалавека. Асноўныя формы Г. у. вядомы з часоў Кіеўскай Русі: шапка (з сукна ці лямцу) у мужчын, вянок у дзяўчат, чапец, паверх убрус у жанчын. З фарміраваннем бел. народнасці замацоўваліся і этнічныя асаблівасці адзення. Г. ў. заможных класаў выраблялі з дарагіх мануфактурных, найчасцей экспартуемых з Італіі, Францыі, Турцыі тканін (адамашак, аксаміт, парча, шоўк, фалюндыша, дыхтоўнае сукно), з футра гарнастая, собаля, куніцы, бабра, ліса, вавёркі; багата аздаблялі каштоўнымі камянямі (алмазамі, жэмчугам), упрыгожвалі пер'ем, кутасамі, вышыўкай і карункамі з залатых і сярэбраных нітак, а таксама стужкамі, спражкамі, кітамі. Мужчынскімі Г. ў. магнатаў і гарадской знаці ў 16—19 ст. былі: шапка, кучомка, берэт, магерка, канфедэратка, капялюш, таф'я, шлык, ялома; у духавенства — скуф'я, мітра, п'юска, бабровыя шапкі, у бяднейшай шляхты і мяшчан — капузы. Жаночыя Г. ў. вызначаліся разнастайнасцю, шыкоўным аздабленнем, залежнасцю форм ад змены стыляў у зах.-еўрап. касцюме. У дзяўчат былі пашыраны вянок, чало, карона, у замужніх жанчын — намітка, шапка, каўпак, чапец, рантух, хустка, шырынка, берэт і інш. Г. ў. гарадскіх рамеснікаў, мяшчан адрозніваліся большай практычнасцю, таннейшым матэрыялам, стрыманай афарбоўкай. Бел. нар. Г. ў. выраблялі ў хатніх умовах, часцей спец. рамеснікі (шапавалы). Мужчыны насілі суконную або лямцавую белую ці шэрую магерку, аўчынную або футравую цыліндрычную ці конусападобную кучомку, зімой аўчынную або футравую аблавуху. Вядома і шапка-футраванка (накшталт канфедэраткі) з чатырохвугольным цёмным верхам і мяккім аколышам. Святочныя Г. ў. ўпрыгожвалі дэкаратыўнай строчкай, каляровымі нашыўкамі шнурка, скуры, тканіны, кутасамі. Шырока бытавалі валеныя ці плеценыя брылі, якія насілі часцей улетку. З канца 19 ст. набыў пашырэнне картуз, заменены ў 20 ст. кепкай. Жаночыя Г. ў. ў 19 — пач. 20 ст., асабліва святочныя і абрадавыя, вызначаюцца багаццем форм, спосабам нашэння, майстэрствам і вытанчанасцю выканання. Дзяўчаты насілі валасы на прамы прабор (радзей гладка), запляталі ў 1—2 касы з каснікамі (розных колераў стужкі, паскі тканіны, нізкі бісеру). Дзявочыя ўборы ахаплівалі галаву ў выглядзе абручыка ці перавязкі-ручніка і падзяляліся на такія віды, як вянок, скіндачка, чылка, кубак, хустка. Утылітарнай функцыі дзявочых Г. у. належала другасная роля, галоўнай у іх была эстэтычная змястоўнасць. Асабліва маляўнічыя былі вясельныя і купальскія ўборы, у аздабленні якіх выкарыстоўвалі кветкі, галінкі дрэў, зеляніну, стужкі, пер'е, паперу. Замужнім жанчынам не дазвалялася паказвацца з непакрытай галавой, і іх Г. ў. былі больш разнастайныя і складаныя паводле будовы і спосабу нашэння і больш сціплыя паводле дэкору. Жаночыя Г. ў. падзяляліся на ручніковыя (намітка, сярпанка, хустка), рагацістыя (галовачка, рожкі, сарока), каптуровыя (каптур, чапец, наколка), падвічкавыя (падвічка). На белае поле палатна наносіўся чырвоны ці чырвона-чорны арнамент. З прыёмаў мастацкага афармлення пераважалі вышыўка, узорыстае ткацтва, аплікацыя парчовай тасьмой крамнымі тканінамі. У Г. у. пажылых кабет асн. акцэнт рабіўся на пластыку формы, спосаб завязвання. Жаночыя Г. ў. не мелі рэзкага падзелу на зімовыя і летнія, у холад на іх накідвалі дадатковую хустку. У 19 — пач. 20 ст ў вёску сталі пранікаць фабрычныя вырабы, яны выцеснілі традыцыйныя нар Г. ў. Асартымент сучасных Г. у. вельмі разнастайны паводле полава-ўзроставага і сезоннага прызначэння, выкарыстаных матэрыялаў, тэхналагічнага выканання, а таксама мастацкага вырашэння як паводле форм, так і аздаблення.

Да арт. **Галаўныя ўборы.** «Галовачка». Пач. 20 ст. Давыд-Гарадок Столінскага р-на.

Да арт. **Галаўныя ўборы.** Дзяўчына ў хустцы. 1920-я гады. Калінкавіцкі р-н.

*Літ.:* Маслова Г. С. Народная одежда русских, украинцев и белорусов в XIX — иачале XX в. // Восточно-славянский этнографический сборник. М.; Л., 1956; Беларускае народнае адзенне. Мн., 1975; Раманюк М. Ф. Беларускае народнае адзенне. [Альбом]. Мн., 1981. *М. Ф. Раманюк.*

**ГАЛАЦІ́ЧАСК**, старажытны горад *Полацкай зямлі*. Упамінаецца ў «Аповесці мінулых часоў» пад 1071: «Победи Всеслава ў Галацичьска». Месцазнаходжанне яго не выяўлена. Даследчыкі атаясамлівалі Г. з вёскамі Галоўчын Бялыніцкага і Голацк Пухавіцкага р-наў. Але рэшткі стараж. горада там не выяўлены.

*Літ.:* Повесть временных лет. Ч. 1. М.; Л. 1950; Алексеев Л. В. Полоцкая земля в IX—XIII в.: (Очерки истории Северной Белоруссии). М., 1966; Штыхов Г. В. Города Полоцкой земли (IX—XIII вв.). Мн., 1978.

**ГАЛДО́ВІЧ** Аляксандр Іванавіч (3 1900, Барысаў — 14.11.1975), генерал лейтэнант інж. войск (1945). У Чырв. Арміі з 1919. Удзельнік грамадз. вайны на Зах. фронце. Скончыў Маскоўскую ваенна-інж. школу (1923). Удзельнік баёў на воз. Хасан (1938). У Айч. вайну нач. інжынерных войск арміі на Паўд Зах., Паўн.-Каўказскім, 2-м і 3-м Укр франтах. Скончыў вышэйшыя акадэмічныя курсы пры Ваен. акадэміі Генштаба (1948). Да 1961 нач. інжынерных войск ваен. акруг, нам. нач. інжынерных войск Мін-ва абароны СССР.

**ГАЛЕ́НЧАНКА** Георгій Якаўлевіч (н 28.2.1937, Петразаводск), беларускі гісторык-медыявіст, кнігазнавец. Канд. гіст навук (1965). Скончыў БДУ (1960) З 1965 ст. выкладчык БДУ, з 1968 ст навуковы супрацоўнік, з 1991 заг. аддзела спец. гіст. навук Ін-та гісторыі АН Беларусі. Даследуе пытанні крыніцазнаўства, гістарыяграфію эпохі феадалізму гісторыка-культурныя працэсы, гісторыю царкоўна-рэлігійных і этнічных адносін, кнігадрукавання на Беларусі ў 16 18 ст., гістарыяграфію скарыназнаўства

Знайшоў і ўвёў у навук. ўжытак шэраг новых дакументаў пра **Ф.** Скарыну і яго асяроддзе ў Вільні — Я. Бабіча, Ю. Адверніка, Б. Онкава; пра В. Цяпінскага, братоў Мамонічаў, прасачыў непасрэдныя сувязі І. Фёдарава і П. Мсціслаўца з С. Будным. Прааналізаваў каляндар з «Малой падарожнай кніжкі» Скарыны. Складальнік «Бібліяграфічнага спіса беларускіх старадрукаваных выданняў XVI—XVIII стст.» (1961), навук. апісання «Старадрукаваныя кірылічныя кнігі 16—18 ст.» у каталогу «Кніга Беларусі, 1517—1917» (1986), бібліяграфічнага даведніка «Адкрыццё Скарыны» (1989), адзін з аўтараў навукова-папулярнай кнігі «Францыск Скарына» (з В. Чамярыцкім і В. Шматавым), выдадзенай ЮНЕСКА у Парыжы на франц. і англ. мовах (1979 і 1980), навук. кансультант факсімільнага выдання «Біблії» Ф. Скарыны (1990—91).

*Тв.:* Идейные и культурные связи восточнославянских народов в XVI — середине XVII в. Мн., 1989; Францыск Скарына — беларускі і ўсходнеславянскі першадрукар. Мн., 1993: Астранамічныя звесткі ў «Малой падарожнай кніжыцы» Скарыны // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1974. № 4; «Календарь» Франциска Скорины // Из истории книги в Белоруссии. Мн., 1976; Новое о Франциске Скорине // Проблемы рукописной и печатиой кииги. М., 1976.

**ГАЛЕ́ЦКІ** Пётр Антонавіч (май 1919, в. Майдан Талачынскага р-на — 21.10. 1942), Герой Сав. Саюза (1965). Працаваў брыгадзірам у калгасе на радзіме. У Чырв. Арміі з 1939. У Вял. Айч. вайну на фронце з чэрв. 1941. У канцы 1941 накіраваны ў тыл ворага ў партыз. атрад «Перамога», які дзейнічаў на Смаленшчыне і ў Віцебскай вобл. 21.10.1942 недалёка ад чыг. ст. Крынкі Лёзненскага р-на з узрыўчаткай кінуўся пад варожы эшалон, у складзе якога было больш за 40 цыстэрнаў з гаручым. На месцы подзвігу пастаўлены абеліск. Яго імя прысвоена школе ў в. Славені Талачынскага р-на.

**ГАЛІ́НА** Антось [сапр. Міцкевіч Міхаіл Міхайлавіч; псеўд. Міхась Міцкевіч, Міхась Мяцёлка; крыпт. «М. М-ч»; 13(25).7.1897, в. Мікалаеўшчына Мінскага пав., цяпер Стаўбцоўскі р-н — 25.10.1991], беларускі пісьменнік, педагог, перакладчык, грамадскі дзеяч. Брат Я. *Коласа.* Скончыў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю (1917). Жыў на хутары Смольня са сваім братам Юзікам, займаўся сельскай гаспадаркай. Пасля прыходу Чырв. Арміі ў Зах. Беларусь працаваў настаўнікам у Мікалаеўшчынскай школе, у час ням.-фаш. акупацыі — інспектарам школ. У 1944, каб пазбегнуць рэпрэсій, эмігрыраваў спачатку ў Чэхаславакію, дзе працаваў цесляром, потым у Зах. Германію. Жыў у лагеры для перамешчаных асоб. Адзін з арганізатараў згуртавання бел. настаўнікаў на эміграцыі, кіраўнік пачатковай школы ў лагеры Міхельсдорф, школьны інспектар Бел. нац. к-та па амерыканскай зоне Зах. Германіі. Апрацаваў для бел. пачатковых школ, якія дзейнічалі ў лагерах, каля 10 чытанак (большасць выдадзены ў 1947—49 скаўцкім выд-вам «Крыніца»). Браў удзел у стварэнні Бел. аўтакефальнай праваслаўнай царквы (БАПЦ), у 1949 абраны сакратаром яе вышэйшага праўлення. У 1950 пераехаў у Нью-Йорк (ЗША), дзе працаваў настаўнікам бел. школы, вартаўніком цвінтара. З'яўляўся намеснікам Гал. управы Бел.-амерыканскага задзіночання, старшынёй выдавецкага фонду «Беларус», апекуном сабора св. Кірылы Тураўскага ў Нью-Йорку. Літ. дзейнасць пачаў у 1917. Друкаваўся ў газ. «Вольная Беларусь», «Беларусь», «Звон» і інш. У 1952—60 рэдактар ґаз. *«Беларус»*, у 1970—81 — час. *«Голас царквы»*. Тэматыка апавяданняў і фельетонаў Г.— жыццё сялян, роля настаўнікаў і інтэлігенцыі ў справе нац. адраджэння, фарміравання самасвядомасці беларусаў, абарона бел. мовы. Аўтар артыкулаў пра творчасць Я. Коласа, Я. Купалы, М. Багдаиовіча і інш., па пытаннях жыцця эміграцыі. У 1960-я гады перакладаў з царк.-славянскай на бел. мову тэксты малітваў, богаслужэнняў, Евангелля. *М. М. Міцкевіч.*

Да арт. **Галаўныя ўборы.** Каптур. Канец 19 — пач. 20 ст. Маладзечанскі р-н.

Да арт. **Галаўныя ўборы.** Саламяны капялюш. 1940-я гады. Лідскі р-н.

П А Галецкі.

**ГА́ЛІЦКА-ВАЛЫ́НСКАЕ КНЯ́СТВА,** старажытнарускае княства, утворанае ў 1199 у выніку аб'яднання князем *Раманам Мсціславічам* Галіцкага і *Уладзіміра-Валынскага княстваў.* Размяшчалася ў вярхоўях Днястра, Віслы, Нарава і Прыпяці, у канцы 13 ст. ўключала больш за 80 гарадоў. Пасля смерці Рамана Мсціславіча ў 1205 распалася на паасобныя дробныя княствы, але да 1240 кн. Даніла Галіцкі зноў аб'яднаў іх. У далейшым князі Г.-В. к. браты Даніла і *Васілька Раманавіч* праводзілі палітыку падначалення сваёй уладзе Тураўскага, Пінскага і Наваградскага (Навагрудскага) княстваў, Берасцейскай зямлі і летапіснай Літвы (верхняе Панямонне), якія выкарыстоўваліся імі як плацдарм для паходаў галіцка-валынскіх войск на Польшчу (1219, 1237) і на яцвягаў (1229, 1248, 1250, 1256). Пінскі кн. Расціслаў, занепакоены імкненнем Данілы Галіцкага падначаліць свайму ўплыву суседнія землі, арганізаваў супраць яго ў 1228 кааліцыю князёў, але пацярпеў няўдачу. Пазней пінскія князі для барацьбы супраць Г.-В. к. выкарыстоўвалі суседнюю Літву, атрады якой у 1246 і 1247 нападалі на валынскія гарады. Галіцка-валынскія князі былі галоўнымі знешнімі праціўнікамі ўтварэння ВКЛ, у 1248—49, 1251 і 1253 яны зрабілі 3 паходы на стараж. сталіцу дзяржавы — Наваградак. У выніку гэтых нападаў Наваградак вымушаны быў адмовіцца ад заваяванай ім Літвы. У 1254 наваградскі князь Войшалк аддаў сваю зямлю сыну Данілы Галіцкага Раману, а сам пайшоў у Галіцкую зямлю, дзе правёў 3 гады ў манастыры, каля 1258 вярнуўся на радзіму, захапіў Наваградак, у 1264 з дапамогай галіцка-валынскіх князёў заваяваў літоўскія землі Нальшчаны і Дзяволтву, а ў 1267

перадаў велікакняжацкі пасад сыну Данілы Галіцкага — Шварну Гэта выклікала незадаволенасць брата Шварна — Льва, які ў тым жа годзе забіў Войшалка Пры вял. князю ВКЛ Трайдзеню галіцка-валынскія князі ў саюзе з татарамі ў 1274 і 1277 зрабілі спусташальныя паходы на Навагрудак і Гародню (Гродна). Князі ВКЛ Будзікід і Будзівід аддалі ў 1289 валынскаму кн. Мсціславу Даніlавічу Ваўкавыск, каб захаваць з ім мір. У выніку міжусобнай барацьбы паміж галіцкімі і валынскімі князямі Г.-В. к. паступова аслабела і распалася. У 1340-я гады за землі былога Г.-В к. ваявалі ВКЛ і Польшча. Паводле пагаднення 1352 Галіцкая зямля падначалена Польшчы, а Валынская ўвайшла ў склад ВКЛ

*Літ* Полное собрание русских летописей Т 2 Ипатьевская летопись М, 1962 С 318—320, 933, Пашуто В Т Очерки по истории Галицко-Волынской Руси М, 1950, Софроненко К А Общественно-политический строй Галицко-Волынской Руси XI—XIII вв М, 1955, Ермаловіч М Старажытная Беларусь Полацкі і навагародскі перыяды Мн, 1990 С 301—307, 325, 335, 340, 342 *М І Ермаловіч*

**ГА́ЛІЦКА-ВАЛЫ́НСКІ ЛЕ́ТАПІС,** помнік гістарыяграфіі, мовы і літаратуры Стараж Русі Збярогся ў Іпацьеўскім, Хлебнікаўскім і інш. спісах укр. летапіснага зводу канца 13 ст. (гл. *Іпацьеўскі летапіс*). Складзены ў Галіцка-Валынскай Русі, ахоплівае падзеі за 1201—92. Апошнія запісы датычаць гісторыі Пінскай зямлі. Відаць, пратограф вядомых спісаў гэтага летапісу ўзнік у Пінску. Першапачаткова быў напісаны ў прагматычнай форме, без пазначэння дат, як дакументальная гіст. аповесць. Пазней яго тэкст быў падзелены на асобныя пагадовыя артыкулы, але месцамі недакладна. даты некаторых падзей у летапісе храналагічна разыходзяцца на 2—3 і нават 5 гадоў Паводле літ. структуры і зместу — звод, у якім вылучаюцца 2 асн. часткі: Галіцкі і Валынскі летапісы. Першая частка нагадвае гіст. аповесць, мае выразна свецкі характар, вызначаецца цэльнасцю, жывасцю і дэталёвасцю выкладання, багаццем вобразна-выяўленчых сродкаў. У цэнтры яе ўвагі князь Даніла Галіцкі, які пададзены ярка, панегірычна і ў духу рыцарскіх ідэалаў. Другая частка прысвечана пераважна гісторыі *Валынскай зямлі* 2-й пал. 13 ст., яна больш сціслая, фрагментарная, адметная рэлігійнай афарбоўкай падзей Аўтары летапісу — высокаадукаваныя, дасведчаныя і таленавітыя кніжнікі, гарачыя патрыеты сваей зямлі, прыхільнікі моцнай княжацкай улады. У творы шырока паказана грамадска-паліт. і культурнае жыцце Галіцка-Валынскай Русі 13 ст., яе міжнар. сувязі, гераічная барацьба супраць мангола-татарскага нашэсця, польскіх і літоўскіх князёў

Г.-В. л.— каштоўная крыніца вывучэння мінуўшчыны Беларусі. Змяшчае унікальныя звесткі па гісторыі Навагрудка, Брэста, іншых заходнебел. гарадоў, пра асобныя помнікі бел. культуры (заснаванне Лаўрышаўскага манастыра, будаўніцтва *Камянецкай вежы*), пра жыцце і дзейнасць вял. князёў ВКЛ *Міндоўга, Войшалка, Трайдзеня*, звесткі пра якіх, як мяркуюць некаторыя даследчыкі (У. Ц. Пашута, М. І. Ермаловіч), запазычаны з Навагрудскага летапісу. Адзіны помнік, у якім даволі шырока асветлены пачатковы этап паліт. аб'яднання бел.-літ зямель у адзіную дзяржаву, працэс утварэння ВКЛ, паказана складанасць гэтага прагрэсіўнага гіст. працэсу. Падзеі ў летапісе пададзены з пункту погляду інтарэсаў галіцка-валынскіх князёў, месцамі тэндэнцыйна, але звесткі ў цэлым адпавядаюць гіст сапраўднасці. Летапіс быў шырока вядомы на бел землях, паслужыў крыніцай і ўзорам для бел.-літ. хронік 16 ст. Асобныя яго сюжэты выкарыстаў аўтар *«Хронікі Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага»*, звесткі пра Міндоўга і Войшалка былі перакладзены на старабел. мову і ўключаны ў *Хроніку Быхаўца* Гэты летапіс садзейнічаў таксама пераадоленню традыцыйнай пагадовай формы выкладання падзей у бел.-літ. агульнадзярж летапісанні і станоўча паўплываў на развіцце бел. гіст прозы і гістарыяграфіі позняга сярэднявечча і эпохі Адраджэння. Частка Г.-В. л., што датычыць гісторыі ВКЛ, на сучасную бел. мову перакладзена В. А. Чамярыцкім (Спадчына. 1990. № 3—4).

*Публ* Полное собрание русских летописей Т 2 Ипатьевская летопись М, 1962

*Літ* Грушевський М Хронольогія подій Галицько-Волинськоі літописи // Зап Наук т-ва ім Шевченка 1901 Т 41, Генсьорський А І Галицько-Волинський літопис (Процес складання, редакціі і редактори) Київ, 1958, Пашуто В Т Очерки по истории Галицко-Волынской Руси М, 1950 *В А Чамярыцкі*

К М Галіцкі.

**ГА́ЛІЦКІ** Кузьма Мікітавіч [12(24).10. 1897, Таганрог — 14.3.1973], удзельнік баёў на Беларусі ў Вял. Айч. вайну, Герой Сав. Саюза (1945). Ген. арміі (1955). У арміі з крас. 1917 — радавы, мал. унтэр-афіцэр. У Чырв. Арміі са жн. 1918. У час грамадз. вайны камандзір узвода, роты, батальена, пам. нач штаба брыгады на Укр., Паўд. і Паўд Зах. франтах. Скончыў Вышэйшую стралкова-тактычную школу (1922) Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1927) Удзельнік сав.-фінляндскай вайны 1939—40. У Вял. Айч. вайну з чэрв 1941 на Зах., Паўн.-Зах., Калінінскім, 1-м Прыбалт., 3-м Бел. франтах камандзір стралк. дывізіі, корпуса, нам. камандуючага 1-й ударнай, камандуючы 3-й ударнай, 11-й гв. арміямі. Удзельнік абароны Ліды, Гомеля, бітвы пад Масквой, Вялікалуцкай, Невельскай аперацый. 11-я гв. армія пад яго камандаваннем вызначылася ў *Гарадоцкай аперацыі 1943* У *Беларускай аперацыі 1944* 11-я армія прарвала абарону праціўніка і ва ўзаемадзеянні з 5-й арміяй разграміла багушэўска-аршанскую групоўку ворага, з баямі прайшла 600 км, фарсіравала Бобр, Бярэзіну, Неман, удзельнічала ў вызваленні Оршы, Барысава, Мінска, Маладзечна. Удзельнік Усх-Прускай аперацыі, у т. л. штурму Кенігсберга, крэпасці Пілаў (Балтыйска) Да 1962 камандуючы Асобай Прыкарпацкай, Адэскай, Закаўказскай ваен акругамі, Паўн. групай сав. войск у Польшчы. Дэп. Вярх. Савета СССР у 1946—62. Ганаровы грамадзянін г. Ліда Яго імем названы вуліцы ў гарадах Гарадок, Ліда, Маладзечна.

*Тв* В боях за Восточную Пруссию Зап командующего 11-й гвардейской армией М, 1970, Годы суровых испытаний, 1941—1944 Зап командарма М, 1973

**ГАЛІ́ЦКІ** Міхаіл Мікалаевіч [16(29).10 1878, г. Камянец-Падольскі, Украіна — 8.10.1973], удзельнік рэв. руху на Беларусі. З 1897 у Гомелі, ліцейшчык чыг майстэрняў. У 1912—14 старшыня Палескага камітэта РСДРП(б) З сак 1917 чл. Петраградскага Савета, удзельнік грамадз. вайны. У 1925—26 інструктар Гомельскага губкома РКП(б). З 1933 на парт., прафс. і гасп. рабоце ў Маскве

**ГАЛО́ТА** Ілья (? —чэрв. 1649), адзін з кіраўнікоў паўстанцкіх атрадаў у час *антыфеадальнай вайны 1648—51* на Украіне і Беларусі Палкоўнік Войска Запарожскага Вясной 1649 Б. Хмяльніцкі накіраваў Г з 10-тысячным атрадам на дапамогу паўстанцам на Беларусь. Рухаючыся на чаўнах уверх па цячэнні Прыпяці, казакі грамілі і рабавалі шляхецкія маенткі, мелі некалькі перамог у баях з харугвамі войска ВКЛ, якімі камандаваў *Я. Радзівіл*. З'яўленне казакоў садзейнічала разгортванню паўстання на Беларусі Паўстанцы з Гомеля і інш мястэчак далучаліся да войска Г. 17.6.1649 у раене мяст. Загалле (цяпер Хойніцкі р-н) Г з 3-тысячным (паводле інш. звестак — 7-тысячным) атрадам уступіў у бітву з войскам ВКЛ Але конніца ротмістра Сасноўскага вымусіла казакоў адступіць да балотаў, і ў выніку працяглага бою амаль усе паўстанцы разам з Г. загінулі. Толькі нязначная колькасць казакоў змагла выратавацца ноччу і вярнуцца на Украіну

*Літ* Белоруссия в эпоху феодализма

Сб документов и материалов Т 2 Мн, 1960, Документы об освободительной войне украинского народа, 1648—1654 гг Киев, 1965, Kotubaj E Życie Janusza Radziwiłła Wilno, Witebsk, 1859 *В I Мялешка*

**ГАЛО́ЎНЫ АРХІ́Ў СТАРАЖЫ́ТНЫХ А́КТАЎ** (ГАСА) у Варшаве. Заснаваны ў 1808 як Агульны краевы архіў, з 1816 Гал. архіў Польскага Каралеўства, з 1889 Варшаўскі гал. архіў старaж. актаў, з 1918 ГАСА. Зберагае найбольш каштоўныя дакументы пра дзейнасць найвышэйшых улад Польскай дзяржавы ад 14 ст, самы стараж. дакумент датуецца 1155. Захоўвае дакументы органаў улады і ўстаноў зямель Кароны Польскай і ВКЛ у асноўным перыяду ўваходу ў Рэч Паспалітую Сярод найбольш каштоўных дакументаў, што датычаць Беларусі, асобныя кнігі метрыкі ВКЛ, сумарыуш і копія метрыкі сярэдзіны 18 ст., пергаментныя дакументы з Нясвіжскага архіва кн. Радзівілаў (каралеўскія і прыватныя, 16—18 ст.), радавыя архівы Патоцкіх з Радзыні (1500—1841), Браніцкіх (1526, 1661—1790), Панятоўскіх (1461—1797), Патоцкіх з Яблоны (1486—1926), Пшэздзецкіх (1539—1729), Радзівілаў з Паланечак (15—19 ст), Фашчаў (1583—1865), Прозараў і Ельскіх (1624—1915) і інш., маянткавыя архівы. У аддзеле картаграфічных фондаў збор планаў і карт тэр. Беларусі.

*Літ* Стэмпняк У Матэрыялы па гісторыі Беларусі ў складзе дакументаў Галоўнага архіва старажытных актаў у Варшаве // Тэз міжнар навук тэарэт канф «Архівазнаўства, крыніцазнаўства, гістарыяграфія Беларусі стан і перспектывы» Мн, 1993 Ч 1, Archiwum Główne Akt Dawnych Informator Warszawa, 1991 *У Стэмпняк*

**ГАЛО́ЎНЫ ЛІТО́ЎСКІ ТРЫБУНА́Л**, вышэйшы апеляцыйны суд у ВКЛ, гл. *Трыбунал Вялікага княства Літоўскага.*

**ГАЛО́ЎНЫ ШТАБ БЕЛАРУ́СКІХ ПАРТЫЗА́Н**, орган, які ўзначальваў дзейнасць партыз. атрадаў і груп супраць усталявання акупацыйнага рэжыму польскіх улад у Лідскім, Гродзенскім, Бельскім і Ваўкавыскім пав. Зах. Беларусі ў 1921—22. Базіраваўся ў Белавежскай пушчы. У жн.— снеж. 1922 выдаваў час. «Беларускі партызан». Партызаны палілі панскія маенткі, грамілі дзярж. ўстановы, паліцэйскія гарнізоны, змагаліся супраць карных атрадаў і экспедыцый. Зімой 1922—23 большасць партыз. фарміраванняў, падначаленых штабу, была разгромлена, распалася ці ўлілася ў больш моцныя атрады. Узятыя ў палон партызаны А. Т. Тамашук, Я. І. Сахарчук, Я. М. Піцялюк, Дз. П. Мартынюк паводле прыгавору ваенна-палявога суда расстраляны, В. П. Тамашук прыгавораны да пажыццевага турэмнага зняволення *І П Хаўратовіч*

**ГАЛО́ЎНЫЯ СУДЫ́**, вышэйшыя судовыя органы ў беларускіх губернях у 1797—1831. Утвораны паводле ўказа Паўла І ад 6.2.1797 пасля скасавання *Трыбунала Вялікага княства Літоўскага* і *верхніх земскіх судоў* Падзяляліся на 2 дэпартаменты, у склад якіх уваходзілі. старшыня дэпартамента, па 4—8 засядацеляў (выбіраліся з ліку дваран шляхам складаных шматступенных выбараў спачатку на 1 год, з 1800 на 3 гады) і саветнік (прызначаўся ўрадам). Працавалі на працягу 2 кадэнцый штогод: 20 лютага — 20 ліпеня і 20 верасня — 20 снежня. Дзейнічалі пераважна ў якасці судоў 2-й інстанцыі і разглядалі справы, што паступалі з ніжэйстаячых судоў па апеляцыйных скаргах.

У 1-ы дэпартамент Г с на апеляцыю паступалі крымінальныя справы, якія маглі мець вынікам смяротную кару, пазбаўленне гонару або публічнае пакаранне (справы пра забойствы, рабункі, разбой, падпалы, падробку дакументаў, невыкананне распараджэнняў паліцыі і інш.). Злачынствы і правіннасці службовых асоб (незалежна ад займаемай пасады) 1-ы дэпартамент Г. с. разглядаў у якасці суда 1-й інстанцыі. Пры вызначэнні пакарання па крымінальных справах Г. с кіраваліся *Статутам Вялікага княства Літоўскага 1588* і расійскім заканадаўствам, пры выкананні прыгавору — толькі законамі Расіі Прыгаворы 1-га дэпартамента Г. с. у адносінах недваран зацвярджаліся губернатарам (пры яго адсутнасці — губернскім пракурорам), у адносінах дваран — Сенатам.

2-і дэпартамент Г. с. разглядаў усе цывільныя справы, што паступалі на апеляцыю з ніжэйстаячых судоў пра раздзел маенткаў, спагнанне даўгоў, устанаўленне права ўласнасці на нерухомую маемасць і інш. Справы, якія закраналі інтарэсы буйных і ўплывовых феадалаў, 2-і дэпартамент мог разглядаць у якасці суда 1-й інстанцыі Цывільныя справы разглядаліся ў Г. с, як правіла, на падставе мясцовых законаў, але ў справах, адносна якіх былі прыняты спец ўказы, прымянялася расійскае заканадаўства. Справы з цаной іску больш за 500 руб., разгледжаныя 2-м дэпартаментам Г. с., маглі быць абскарджаны ў Сенат. У выпадках назапашвання вял. колькасці нявырашаных спраў указам Сената дадаткова да пастаянных ствараліся часовыя дэпартаменты. Г. с ажыццяўлялі ў губернях нагляд за ўсімі ніжэйстаячымі судовымі і паліцэйскімі органамі, што вялі папярэдняе следства; накладвалі спагнанні на чыноўнікаў гэтых органаў за хібы ў працы; выконвалі асобныя натарыяльныя дзеянні і інш. Дзейнасць Г. с. знаходзілася пад кантролем губернскіх органаў кіравання (генерал-губернатара, губернатара, губернскага пракурора, казеннай палаты і інш.), агульны нагляд ажыццяўляў Сенат. Скасаваны ў Віцебскай і Магілёўскай губ. 1.1.1831, у Віленскай, Гродзенскай і Мінскай — 30.10.1831.

*Кр* Полн собр законов Российской империи Собр 1-е Т 24 № 17788, 18135, 18147, Т 25 № 18563, 18643, Т 26 № 19628, Т 27 № 20619, Т 28 № 21786, Т 29 № 22033, Т 36 № 27833, Т 40 № 30364, Т 44, ч 3, р 1 С 398, р 2 С 220, 225—226, 397, Собр 2-е Т 6 № 4233, 4894

*Літ* Шаўкапляс В А Асаблівасці арганізацыі мясцовых органаў кіравання і суда ў Беларусі ў канцы XVIII — пачатку XIX ст // Весці АН БССР Сер грамад навук 1972 № 2 *В А Шаўкапляс*

**ГАЛО́ЎНЫЯ УПРАЎЛЕ́ННІ ПРЫ САВЕ́ЦЕ МІНІ́СТРАЎ РЭСПУ́БЛІКІ БЕЛАРУ́СЬ**, цэнтральныя органы дзярж. кіравання Беларусі. Стварающца СМ Беларусі на аснове Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Адрозніваюцца ад міністэрстваў і ведамстваў задачамі, функцыямі, аб'емам паўнамоцтваў, якія зацвярджаюцца СМ. Узначальваюць гал. ўпраўленні начальнікі, што назначаюцца СМ Беларусі. Пачалі ствараццa ў 1930-я гады пры СНК БССР. У гады Вял. Айч. вайны дзейнасць спынілі У 1943 асобныя гал. ўпраўленні аднавілі сваю дзейнасць. У наступныя гады колькасць іх павялічвалася, але не была пастаяннай асобныя скасоўваліся, другія пераўтвараліся ў мін-вы або дзяржкамітэты На 1.1.1992 пры СМ Рэспублікі Беларусь гал. ўпраўленні архіўнае, па гідраметэаралогіі, па дзярж матэрыяльных рэзервах, па вытворчасці дзярж. знакаў, па ахове і ўзнаўленні рыбных запасаў і рэгуляванні рыбалоўства, пагранічных войск, па рэстаўрацыі і кансервацыі помнікаў гісторыі і культуры. *Я Ф Шораху*

**ГАЛО́ЎСК**, група стаянак каменнага і бронзавага вякоў каля в Галоўск Сенненскага р-на. Размешчаны на паўд ускраіне тарфяніку Крывіна.

Стаянка Крывіна-1. За 800 м на ПнЗ ад вескі, на паўд.-ўсх. краі выспы Ворлева, на левабярэжжы р Крывінка. Выяўлена ў пач 1930-х гадоў У С. Дактуроўскім пры асушэнні тарфяніку, абследавалі ў 1934 А Дз Каваленя і К. М. Палікарповіч, раскопкі праводзілі ў 1939 Палікарповіч, у 1959—60 П. А. Прыбыткін, у 1961—63 Я. Г. Краскоўская, у 1966—68 М. М. Чарняўскі Ускрыта 510 м² плошчы. Культурны пласт перарэзаны асушальнымі канавамі Выяўлены 2 гарызонты. У ніжнім, прымацерыковым, гарызонце знойдзены крамяневыя і касцяныя вырабы, нешматлікія абломкі гладкасценных гаршкоў з ракушачнымі дамешкамі ў гліне, сціпла ўпрыгожаныя адбіткамі грэбеня, насечкамі, накольчатымі і ямкавымі паглыбленнямі Матэрыялы адносяцца да крывінскага варыянта *нарвенскай культуры* і датуюцца 2-й пал. 3-га тысячагоддзя да н. э. У верхнім гарызонце выяўлены рэшткі пабудоў з кары і жэрдак, фрагменты вастрадонных гаршкоў з заштрыхаванымі паверхнямі (шчыльна аздоблены насечкамі, грабеньчатымі адбіткамі, тычкамі, наколамі, ямкавымі ўціскаңнямі, шнуравымі ўзорамі), прылады працы з рогу і косці (наканечнікі стрэл, сякеры, праколкі, рыбалоўныя кручкі і інш.), крамяневыя вырабы (наканечнікі стрэл і коп'яў, сякеры, скрабкі, нажы), бурштынавыя і касцяныя ўпрыгожанні Матэрыял верхняга гарызонта адносіцца да *паўночнабеларускай культуры* (канец

неаліту — бронзавы век) і датуецца 1-й пал. 2-га тысячагоддзя да н. э.

Стаянка Крывіна 2. За 100 м на Пн ад стаянкі-1, на ўсх краі выспы Ворлева. Выявіў і даследаваў 25 м² у 1963 Прыбыткін, у 1980—81 раскапаў 55 м² Э. М. Зайкоўскі. Культурны пласт да 0,4 м Знаходкі адносяцца да крывінскага варыянта нарвенскай і паўночнабеларускай культур, аналагічныя знаходкам на стаянцы Крывіна-1

Стаянка Крывіна-3. За 400 м на У ад выспы Ворлева, абапал магістральнага канала, якім выпрастана рэчышча р Крывінка. Выяўлена ў 1978, даследавана 81 м² у 1978—79 Зайкоўскім. У культурным пласце знойдзены матэрыялы паўночнабеларускай культуры, як і ў верхніх гарызонтах папярэдніх тарфянікавых стаянак

*Літ* Поликарпович К М Торфяниковые стоянки Кривина и Осовец в БССР // Бюл Комиссии по изучению четвертичного периода М , Л , 1940 № 6—7, Чернявский М М Исследование неолитических поселений Кривинского торфяиика // Древности Белоруссии Мн , 1969, Зайкоўскі Э М Новае паселішча паўночнабеларускай культуры // Весці АН БССР Сер грамад навук 1982 № 5 Белорусская археология Достижения археологов за годы Сов власти Ми , 1987

*М М Чарняўскі*

**ГАЛО́ЎЧЫН**, веска, цэнтр сельсавета ў Бялыніцкім р-не. За 18 км на ПнУ ад Бялынiч, 26 км ад чыг. ст. Магілеў, на шашы Магілеў — Круглае. На р. Вабіч. 672 жыхары, 293 двары (1992),

Некаторыя даследчыкі атаясамліваюць Г. з стараж. г. Галацічаск, які згадваецца ў «Аповесці мінулых гадоў» пад 1071. Аднак гэта версія не пацвярджаецца археалагічнымі даследаваннямі. У ВКЛ вядома з канца 15 ст. З 1501 належала жонцы вял. князя Аляксандра *Алене Іванаўне*, пазней — князям Галоўчынскім, Патоцкім, віленскаму ваяводу Пацу У 1567 цэнтр маентка ў Аршанскім пав. У 1573 тут заснаваны касцел. У 1583 згадваецца ў Баркулабаўскай хроніцы як сяло, з пач. 17 ст — мястэчка. У час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 войска ВКЛ на чале з вял гетманам Я. Радзівілам злучылася тут у жн. 1654 з войскам гетмана польскага В. А. Галеўскага. У Паўночную вайну 1700—21 каля мяст. Г. 3.7 1708 адбыўся бой паміж рус і шведскімі войскамі. Амаль поўнасцю спалена ў 1654 і 1708. У 1728 цэнтр маентка ў Аршанскім пав. Віцебскага ваяв.; 107 двароў, дзейнічалі млын і сукнавальня. Паводле 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) мястэчка адышло да Расійскай імперыі З 1785 веска Г у Магілеўскім пав., уласнасць памешчыка, 891 жыхар, 116 двароў, 2 царквы, млын, сукнавальня. Праз веску праходзіў Віленскі паштовы тракт. У вайну 1812 каля Г. дзейнічаў атрад Дз. *Давыдава* У 1827 у весцы 658 жыхароў; у 1848 106 двароў, 2 драўляныя і 1 мураваная царквы. У 1858 пабудавана Троіцкая царква. Працаваў бровар (8 рабочых). У 1880 было 900 жыхароў, 123 двары. Апрача земляробства, жыхары займаліся кушнерскім, кравецкім, шавецкім, кавальскім, стальмашным, сталярным і бандарным промысламі. 2 разы на год праводзіліся кірмашы. У 1883 адкрыта школа. У 1897 у весцы 1254 жыхары, у 1909 1603 жыхары, 201 двор Непадалеку былі аднайменны фальварак і сядзіба. 3 лют да кастр. 1918 акупіравана германскімі войскамі. Пасля вызвалення створана працоўная школа 1-й ступені (123 вучні ў 1925). У 1923 арганізавана меліярацыйнае т-ва, у 1924 адкрыта хата-чытальня. З 20.8 1924 цэнтр сельсавета У 1926 1700 жыхароў, 290 двароў. У 1928 дзейнічала сыраробная майстэрня. У снеж. 1929 арганізаваны калгас «12 год Кастрычніцкай рэвалюцыі». У 1930-я гады пачатковая школа пераўтворана ў 7-гадовую, дзейнічалі фельчарска-акушэрскі пункт, ветлячэбніца, аддз. сувязі, клуб. У 1940 у Г. 248 двароў, 1019 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У раене Г — Цяцерына — Круглае воіны 100-й і 164-й стралк. дывізій вялі цяжкія абарончыя баі супраць ням -фаш. войск. 258 вяскоўцаў змагаліся на франтах, 139 — у партыз. атрадах; 129 з іх загінулі. У чэрв. 1944 гітлераўцы спалілі ў весцы 178 двароў, загубілі 201 жыхара. Вызвалена 27.6.1944 воінамі 42-й стралк. дывізіі. У баі за веску вызначыўся ст. лейт. С. Р. *Герашкевіч* Пасля вайны веска адбудавана. У 1970 у Г. 670 жыхароў, 261 двор. Цэнтр калгаса «Наша перамога». У весцы сярэдняя і муз. школы, аддз. сувязі, Дом культуры, сталовая, аптэка, бібліятэка, дзіцячыя сад-яслі. Брацкая магіла сав. воінаў, помнік землякам, помнік Герашкевічу. Г.— радзіма доктара медыцыны Л. І. Галынца (1858—96), чл.-кар. АМН СССР, засл. дзеяча навукі БССР З К Магілеўчыка (1895—1975), вынаходніка, лаўрэата Дзярж прэміі СССР Р. С. Аксельрода (1903—73), ген. арміі Я. І Бычкоўскага (1912—84) і інш.

**ГАЛО́ЎЧЫНСКІЯ**, княжацкі род герба «Лебедзь», прадстаўнікі якога займалі дзярж. пасады ў ВКЛ. Родапачынальнікам звычайна лічаць Мікіту, сын якога Мацей у 1495 прыехаў у ВКЛ з Масквы. Лічыцца таксама, што род паходзіць ад князеў Рапалоўскіх, аднак сярод іх імя Мікіты не сустракаецца. Зваліся таксама Г.-Мікіцінічамі.

Найбольш вядомыя прадстаўнікі роду.

Мацей Мікітавіч (каля 1470— пасля 1536), сын Мікіты. У ВКЛ прыехаў з Масквы сакратаром дачкі Івана III *Алены Іванауны* ў 1495. Намеснік княжацкі і цяцерынскі (1502), бірштонскі, магілеўскі і онікшцінскі (1507). Атрымаў некалькі маенткаў, у т. л. Княжычы каля Галоўчына. У 1536 прасіў польскага караля і вял. князя ВКЛ Жыгімонта I Старога, каб пасля яго смерці старостамі бірштонскімі былі яго сыны Яраслаў і Іван. Са сваіх маенткаў выстаўляў у войска ВКЛ 79 вершнікаў.

Яраслаў (каля 1510—1567), сын Мацея Мікітавіча. Маршалак каралеўскі (1549), староста ковенскі (1567) Валодаў Княжычамі, Водвай, Галоўчынам

Ян (каля 1570—1630), кашталян мсціслаўскі. Уладальнік Галоўчына і Ездна. У 1621—22 вадзіў гусарскую харугву супраць шведаў, чашнік літоўскі (1624).

Аляксандр (каля 1570—1617), вызначыўся ў 1600 у вайне са шведамі кашталян жмудскі (1606), староста лідскі (1607), ваявода мсціслаўскі (1615)

Род згас у 1658 са смерцю Мікалая Г

*Літ* Boniecki A Herbarz Polski T 7 Warszawa, 1904

*А М Нарбут*

**ГАЛО́ЎШЧЫНА**, головщизна, адзін з відаў пакарання, прадугледжаны крымінальным правам ВКЛ за забойства чалавека. Спаганяўся ў выглядзе грашовага штрафу «з именья або маетности рухомае» вінаватага на карысць сваякоў забітага. Г. з'яўлялася дадатковым відам пакарання, але закон рэгламентаваў выпадкі скарыстання яе ў якасці асноўнага пакарання Так, за забойства па неасцярожнасці адказнасць вінаватага абмяжоўвалася толькі Г. Яе памеры залежалі ад саслоўнага становішча або пасады, якую займала ахвяра, часам і ад прафесіі забітага Паводле *Статута Вялікага княства Літоўскага 1588*, напр, за шляхціца Г. спагаиялася ў памеры 100 коп грошаў, службовых асоб сельскага кіравання — 20 коп грошаў, рамеснікаў вышэйшай кваліфікацыі (залатых спраў майстра, арганіста, пушкара, дываншчыка, ткача і інш.) — 30 коп грошаў. Закон асобна рэгламентаваў памер Г. па справах асоб нехрысціянскага веравызнання. У некаторых выпадках Г вызначалася ў двайным памеры («совито»). Напр., за забойства жанчын, за забойства «здрадливым потаемным обычаем» і інш

*Літ* Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 Тэксты Давед Камент Мн, 1989

*Т І Доўнар*

**ГАЛУ́БІЧЫ**, веска, цэнтр сельсавета ў Глыбоцкім р-не. За 18 км на ПдУ ад Глыбокага, 6 км ад чыг. ст. Падсвілле, на аўтадарозе Падсвілле — Докшыцы 480 жыхароў, 181 двор (1992).

Упамінаецца ў 1431 як уладанне полацкага баярына Яшкі Корсакавіча У 16 ст — цэнтр маентка ў Полацкім ваяв. ВКЛ, які належаў Івану Зяноўевічу Корсаку (памер да 1528), потым яго ўдаве. Пазней маентак падзелены паміж сынамі Івана Глебам, які ў 1551 атрымаў дазвол на заснаванне ў Г. мястэчка і, паводле «Полацкай рэвізіі» 1552, валодаў 14 дварамі мяшчан у Г. і 22 сялянскімі дварамі ў навакольнай воласці, Багданам (у 1552 валодаў 29 сялянскімі дварамі) і Федарам (20 двароў). Усяго маентак налічваў 85 двароў. У далейшым Г. належалі сынам Багдана Стафану (у гіст крыніцах упамінаецца ў 1575—95) і Грыгорыю (памер у 1563). Стафан выдаў сваей жонцы Настассі Лукашоўне Гарабурдзе запіс на 4 тыс коп грошаў з маентка Г. У 1623 яна завяшчала гэту суму сыну свайго брата Аляксандру Гарабурдзе. Сыны Грыгорыя Ян і Яўстафій

выкупіл долю свайго дзядзькі ў Гарабурдаў, і Г. былі падзелены паміж імі. Ян, кашталян полацкі, пазней мсціслаўскі (памер у 1625), заснаваў у Г. царкву. Яўстафій (памер у 1625) пераждыў сваіх дзяцей і завяшчаў Г базыльянскаму манастыру св. Тройцы ў Вільні. Сын Яна Грыгорый, харунжы полацкі, у 1635 аспрэчыў гэта завяшчанне і адабраў палову Г. у манахаў як сваю бацькоўскую спадчыну Пазней Г належалі сыну Грыгорыя Казіміру (памер у 1661), яго сынам Яну, Самуэлю Стафану і Казіміру. Пасля смерці апошняга (1727) Г. валодалі яго сыны Дзіянісій і Ян Галубіцкі-Корсак. Сын Яна Міхаіл памер без нашчадкаў у 1769 З 1793 Г. ў складзе Расійскай імперыі. У канцы 18 ст. ў Г дзейнічала уніяцкая царква (згарэла ў 1822), у 1843 на сродкі мясц. жыхароў пабудавана царква Міколы Цудатворца. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст мястэчка Г. ў Плісkай вол. Дзісенскага пав. Віленскай губ.; 76 жыхароў, праваслаўная царква, яўр. малітоўны дом, крама, шынок. З 1921 Г. ў складзе Польшчы, у Глыбоцкім пав. Віленскага ваяв. З 1939 у БССР, з 12.10.1940 — цэнтр сельсавета ў Плiскім р-не. Перад Вял Айч вайной у весцы 245 жыхароў, 48 двароў У маі 1943 і маі — чэрв 1944 ням.-фаш. захопнікі загубілі 216 яе жыхароў, веску (46 двароў) спалілі. Пасля вайны адноўлена. З 25.12 1962 Г.— цэнтр сельсавета ў Глыбоцкім р-не. 283 жыхары, 82 двары (1970). Цэнтр калгаса імя Свярдлова У весцы васьмігадовая школа, клуб, б-ка, аддз. сувязі, магазін, лясніцтва. Помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, магіла ахвяр фашызму. На паўн -зах ускраіне вескі гарадзішча ранняга жал. веку і сярэднявечча.

*Літ* Материалы по истории и географии Дисненского и Вилейского уездов Виленской губернии Витебск, 1896, Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі Віцебская вобл Мн., 1985, Boniecki A Herbarz Polski Warszawa, 1907 T 11 S 187—188

*Я У Бунто, В Л Насевіч*

**ГАЛУБО́ВІЧ** Уладзімір [7(20).6.1908, Екацярынадар — 7.4 1962], беларускі і польскі археолаг. Скончыў Віленскі ун-т (1932), з 1932 супрацоўнік яго археал музея. У 1944—46 навук. супрацоўнік Ін-та гісторыі АН БССР, у 1946—62 праф. Тарунскага і Вроцлаўскага ун-таў, кіраўнік Вроцлаўскага аддз. Ін-та археалогіі Польскай АН. У 1935—39 з жонкаю Г *Цэгак-Галубовіч* рабіў раскопкі ў Глыбоцкім, Міерскім, Пастаўскім, Навагрудскім, Лідскім і інш. раенах, складаў археал. карты гэтых тэрыторый Даследаваў стараж. Вільню, Мінск, апрацаваў матэрыялы раскопак Гродна, вывучаў ганчарную вытворчасць у Зах. Беларусі. Даследаваў помнікі ў Зах. Польшчы (г. Аполе) і Германіі. Займаўся этнаграфіяй і тапанімікай.

*Тв* Кривой город — Вильно (разам з Г Галубовіч) // Краткие сообщения Ин-та истории материальной культуры М, Л, 1945 Вып 11, Славянские поселения правобережной Дисны в Вилейском округе БССР (з ей жа) // Там жа, Garncarstwo wiejskie zachodnich terenów Białorusi Toruń, 1950

*Л Д Побаль*

У І Галубок.

**ГАЛУБО́К** Уладзіслаў Іосіфавіч [сапр. Голуб; 3(15).5.1882, ст. Лясная Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер Баранавіцкі р-н — 28.9 1937], беларускі пісьменнік, рэжысер, акцер, тэатр. дзеяч, мастак. Першы нар. артыст БССР (1928). Вучыўся ў Мінскім гар. вучылішчы. Працаваў грузчыкам на чыгунцы, прыказчыкам у магазіне, слесарам у Мінскім дэпо і інш. У 1906 пачаў літ дзейнасць як паэт і празаік. Друкаваўся ў газ. «Наша ніва», час. «Лучынка», альманаху «Маладая Беларусь» і інш У ліп 1915 — пач. 1917 адзін з кіраўнікоў Бел. т-ва дапамогі пацярпелым ад вайны ў Мінску. З 1917 акцер і рэжысер *Першага беларускага таварыства драмы і камедыі*, з 1920 кіраўнік Драм. секцыі культурна-асв. арг-цыі «Папараць-кветка» ў Слуцку. У 1920 — 22 працаваў заг. маст. аддзела ў Наркамаце асветы БССР. У 1920 стварыў і быў маст. кіраўніком Трупы бел. артыстаў пад загадам Галубка пры Бел. рабочым клубе ў Мінску [гл. *Беларускі трэці дзяржаўны тэатр* (БДТ-3)]. З'яўляўся членам літ. аб'яднанняў «Маладняк», «Полымя». Напісаў каля 40 п'ес на сац., бытавыя і гістарычныя тэмы. Сюжэты для сваіх твораў чэрпаў з рэальнага жыцця бел. народа, фальклору Сацыяльна насычаныя і завостраныя п'есы Г. разлічаны на ўспрыманне шырокага дэмакр. гледача. У сцэнічнай творчасці наследаваў традыцыі стараж. бел. нар. тэатра, што ішоў ад скамарохаў, батлейшчыкаў, выканаўцаў нар. драмы, скарыстоўваў вопыт *Першай беларускай трупы Ігната Буйніцкага*, дасягненні Ф. Ждановіча ў Першым бел. т-ве драмы і камедыі, укр. мастацтва. Праводзіў вял. культурна-асв. работу сярод насельніцтва. Выступаў у друку з публіцыст. і тэатразнаўчымі артыкуламі, успамінамі. З канца 1920-х гадоў пачаліся ганенні на Г., яго абвінавачвалі ў нацыяналізме, замкнутасці творчасці. У 1931 ен быў адхілены ад маст. кіраўніцтва БДТ-3, застаўся працаваць дырэктарам і акцерам. На творчасць Г. гэтага перыяду адмоўна ўплывала ідэалізацыя мастацтва. У 1937 годзе рэпрэсіраваны. Паводле афіц. паведамлення, Г. памер ад гіпертанічнай хваробы. Рэабілітаваны 26.8.1957.

*Тв* П'есы Мн, 1968, Творы Мн, 1983

*Літ* Атрошчанка А Уладзіслаў Галубок Мн, 1969, Адхінуўшы заслону часу Успаміны пра Уладзіслава Галубка Мн, 1979, Каспяровіч М Уладзіслаў Галубок (Біягр нарыс першага бел нар артыста) // Полымя 1929 № 7, Езавітаў К Выдатнага беларускага драматурга і артыста, грамадзяніна Уладыслава Галубка вітаемо з 50-тымі ўгодкамі! [Нарыс пра жыцце і творчасць] // Бел школа ў Латвіі 1932 № 6, Война Л Справы дзен, даўно мінулых Да 60-годдзя трупы Галубка // Тэатр Мінск 1980 № 6

*А В Сабалеускі*

**ГАЛУБО́ЎСКІ** Петр Васілевіч [16(28). 6.1857, Чарнігаўская губ — 17(30) 3 1907], рускі гісторык. Скончыў гісторыка-філалагічны ф-т Кіеўскага ун-та. Займаўся пад кіраўніцтвам праф. У. Б. *Антановіча* Доктар рус. гісторыі (1885). З 1886 выкладчык Кіеўскага ун-та, узначальваў кафедру рус. гісторыі, з 1898 прафесар. Навук. працы прысвечаны гіст геаграфіі, гіст. бібліяграфіі, крыніцазнаўству стараж. гісторыі. У працы «Гісторыя Смаленскай зямлі да пачатку XV ст.» (Кіеў, 1895) на падставе матэрыялаў са стараж. летапісаў, візантыйскіх, арабскіх, ням., польск., лац. і інш. крыніц, археал. і тапаграфічных даных тлумачыць ход славянскай каланізацыі з паўночна-ўсходняга Прыкарпацця, месцы рассялення славянскіх плямен, іх найменні (драўляне, паляне, крывічы), утварэнне бел. мовы, адрозненні паміж полацкімі і смаленскімі крывічамі. У кнізе прыведзены звесткі аб узаемаадносінах Смаленскага княства з ВКЛ і Маскоўскім княствам, пра развіцце гандлю і раместваў, грамадска-паліт. ладу княства, пададзены радавод смаленскіх князеў. Асаблівасці развіцця Смаленскага княства тлумачыць геаграфічнымі і этнаграфічнымі ўмовамі існавання, а шматлікія грамадска-палітычныя падзеі сваяцкімі адносінамі князеў.

*Тв* История Северской земли до половины XIV столетия Киев, 1881, Очерк истории постепенного появления главнейших вопросов по разработке летописей // Унив изв Киев, 1886 № 10, Что можно сказать в настоящее время о личности Лжедмитрия I? // Ист вестн 1902 Т 88, Материалы русской истории и отношение к ним в разное время // Там жа Т 90, Новые издания и исследования по древнейшему периоду русской истории // Унив изв 1906 № 2, Критико-библиографический обзор трудов по древнейшему периоду русской истории // Там жа 1907 № 8

*Літ* История исторической науки в СССР Дооктябрьский период Библиогр М, 1965

*Л П Храпко*

**ГАЛУШКЕ́ВІЧ** Уладзімір Сяргеевіч [21.12.1897(2.1.1898), г. Мсціслаў — 2.2. 1964], генерал-лейтэнант (1962). Удзельнік грамадз. вайны. З лют. 1918 у 3-м Магілеўскім атрадзе Чырв. гвардыі. З 1934 у штабе арміі і Генштабе РСЧА. Скончыў Ваен акадэмію імя Фрунзе (1939). Удзельнік сав.-фінлянд-

скай вайны 1939—40. У Вял. Айч. вайну на Цэнтр., Зах франтах· нач. аператыўнага аддзела, нам. нач. штаба фронту. Пасля вайны ў Ваенна-навуковым упраўленні Генштаба.

**ГАЛУ́ШКІН** Барыс Лаўрэнцьевіч (12.8.1919, г Шахты Растоўскай вобл.— 15.6.1944), адзін з кіраўнікоў партыз. руху ў Віцебскай і Мінскай абл. у гады Вял Айч. вайны, Герой Сав. Саюза (1944). Скончыў Усесаюзны ін-т фізкультуры (1941). У Вял. Айч. вайну на фронце з 1941, удзельнік баеў пад Ленінградам. У 1942 выконваў спец. заданне ў тыле ворага. З мая 1943 камандзір спец. атрада НКДБ «Дапамога» (пазней уваходзіў у партыз атрад «Артур»). Загінуў у час прарыву варожай блакады ў раене воз Палік Пахаваны ў брацкай магіле ў в. Макаўе Барысаўскага р-на Яго імем названа школа ў в. Іканы Барысаўскага р-на.

Б Л Галушкін.

**ГАЛЬПЕ́РЫН** Яфім Абрамавіч (каля 1855, Мінск — ?), рэвалюцыянер-народнік. Вучыўся ў Мінскай гімназіі, якую пакінуў вучнем 5-га класа У 1874 пад уплывам час. «*Вперед!*» далучыўся да ідэй народніцкага сацыялізму. Перайшоў на нелегальнае становішча. У 1875—76 працаваў падзеншчыкам у Смаленскай і Тульскай губ., вёў «лятучую прапаганду» сацыялізму, але пераканаўся ў неўспрымальнасці яе народам. Вярнуўся ў Мінск, наладзіў сувязі з землявольскім гуртком М. Л. *Велера* У сувязі са «справай Велера» ўзяты пад тайны нагляд паліцыі (1879) Пасля расколу «Зямлі і волі» прымкнуў да «*Чорнага перадзелу*» і ўвайшоў у гурток С Л Грынфеста (І. Гецаў, Я. А. *Гурвіч*, С Ляўкоў і інш.). Восенню 1880 камандзіраваны ў Гродна для кіраўніцтва мясцовым маладзежным гуртком «Чорнага перадзелу» (М Янчэўскі, І А. *Гурвіч*, Я Грынкевіч і інш.). З дапамогай гуртоўцаў перапраўляў у Мінск для друкарні «Чорнага перадзелу» фарбу, шрыфт і абсталяванне. На чале з Г. гурток распаўсюджваў у Гродне, ваенным лагеры і навакольных весках рэв. лістоўкі. У канцы 1881 вярнуўся ў Мінск, змяніў рэв. арыентацыю і далучыўся да нарадавольскага гуртка Я. С. Хургіна (Айзенберг, Вольман, Мярлінскі і інш.), стаў супрацоўнікам пашпартнага бюро гуртка. Пасля арышту Хургіна за Г. ўстаноўлена сачэнне. У 1884—84 жыў у Смаленску, дзе зблізіўся з рэв. коламі. У 1885 прыехаў у Мінск і ўвайшоў у гурток І А Гурвіча, вёў прапагандысцкую работу ў т зв. «ісаакаўскіх» рабочых гуртках. Разам з І. А. і Я. А. Гурвічамі выдаў у Мінску брашуру «Праграмныя пытанні». З 1886 супрацоўнічаў у газ. «Минский листок». Акружыўшы сябе рабочай моладдзю, Г. фарміраваў яе рэв. светапогляд, даваў сваім вучням грунтоўныя веды. У 1897 сустрэўся ў Мінску з А. В. *Бонч-Асмалоўскім*, які стаў дапамагаць гурткам Г. матэрыяльна. Разам з Бонч-Асмалоўскім, Р. А. *Гершуні*, К. К. *Брэшка-Брашкоўскай* і інш. ўдзельнічаў у стварэнні *Рабочай партыі палітычнага вызвалення Расіі*. У маі 1900 арыштаваны ў Мінску і пасля 14-месячнага зняволення ў турме сасланы на 5 гадоў у Сібір. У 1924 напісаў успаміны пра сваю рэв. дзейнасць у 1874—1918 (не апублікаваны, захоўваюцца ў Нац архіве Рэспублікі Беларусь). Далейшы лес невядомы.

*Літ* Мещеряков В Партия социалистов-революционеров Ч 1—2 М, 1922, Зміонка А Сацыялістычны рух на Беларусі // Беларусь Нарысы гісторыі, эканомікі, культ і рэв руху Мн, 1924, Бич М О Левые народники в Минске на рубеже XIX—XX вв // Доклады к XI конференции молодых ученых БССР (нояб 1967 г) Мн, 1967, Лосинский Н Б Революционно-народническое движение в Белоруссии, 1870—1884 гг Мн, 1983

*М Б Ласінскі, М А Сакалова*

**ГАЛЬША́НСКАЕ КНЯ́СТВА**, феадальная вотчына кн. *Гальшанскіх* у канцы 13 — сярэдзіне 16 ст. Цэнтр — Гальшаны (цяпер в. *Гальшаны* Ашмянскага р-на). Займала першапачаткова тэр. міжрэчча Віліі і Немана, у 15 ст. распасціралася з Пн на Пд — ад Вількаміра (цяпер г. Укмерге, Літва) і Паставаў да Глуска і Турава, з У на З — ад Мінска да Мастоў. Упершыню ўпамінаецца ў крыніцах каля 1280, калі Гольша «замак сталічны княства свайго заснаваў на рэччы Карабель». Кн. Гальшанскія доўгі час займалі высокія пасады ў ВКЛ. У 1440 і 1492 у Гальшанах адбыліся нарады для выбараў кандыдатаў на вялікакняжацкі прастол. У сярэдзіне 16 ст. радавое ўладанне Гальшанскіх перайшло да *Сапегаў*

*Літ* Полное собрание русских летописей Т 32 М, 1975 Корзун Э С Гольшаны Мн, 1987, Pułaski K Ks Holszanscy Krakow, 1887, Wolff J Kniaziowie litewsko-ruscy od konca czternastego wieku Warszawa, 1895 *Э С Корзун*

**ГАЛЬША́НСКІ ЗА́МАК**, помнік палацава-замкавай архітэктуры 17—20 ст Пабудаваны ў канцы 16 — пач. 17 ст. на паўд.-ўсх. ускраіне в. Гальшаны Ашмянскага р-на, на левым беразе р. Гальшанкі. Да сярэдзіны 16 ст. феад. рэзідэнцыя размяшчалася на гарадзішчы, што знаходзілася за 1,5 км на У ад вёскі, на правым беразе р. Карабель (левы прыток р. Гальшанкі). На новае месца перанесена, відаць, Багданам Сапегам. Помнік не аднойчы быў разбураны, перабудаваны ў 2-й пал. 18 ст. і ў пач 20 ст., што значна змяніла яго вонкавы выгляд і аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю (страчаны галерэі, надбрамная вежа, дэкаратыўнае афармленне сцен, да фасадаў прыбудаваны 2 пяцігранныя 2-павярховыя прыбудовы). Замак — мураваны прамавугольны ў плане 3-павярховы будынак (94,9×78,4 м). Яго карпусы з 4 шасціграннымі вежамі, накрытымі шатровымі дахамі утваралі замкнёны амаль квадратны двор (65,4×57,4 м) Арачны праезд зроблены ў шматграннай надбрамнай вежы, прыбудаванай да галоўнага фасада паўн.-ўсх. корпуса. Захаваліся палавіна паўн.-зах. корпуса і прыбудова да яго, больш за палавіну паўн -ўсх корпуса і паўн. вуглавая вежа.

Даследаваннямі, праведзенымі ў 1981—83 архітэктурна-археал. экспедыцыяй Спец. навукова-рэстаўрацыйных вытворчых майстэрняў (цяпер Беларускі рэстаўрацыйна-праектны ін-т), устаноўлена, што замак будаваўся ў 3 рознachасовыя этапы, якія адрозніваюцца характарам цэглы і тэхнікай муроўкі Паміж розначасовымі муроўкамі няма перавязкі. Найб. ранняй уцалелай часткай помніка з'яўляецца зах. палавіна паўн-зах. корпуса, збудаванага з цэглы-пальчаткі, сустракаецца клінкерная цэгла Пазней пабудавана астатняя частка паўн.-зах. корпуса, паўд.-ўсх. і паўд-зах. карпусы. На заключным этапе пабудаваны паўн.-ўсх. корпус з надбрамнай паўд. і зах. вуглавымі вежамі. Пра іх пазнейшае паходжанне сведчаць і памер цэглы, і штрабы, да якіх яны прыбудаваны пазней. Паводле будаўнічага матэрыялу і характару муроўкі 1-ы этап будаўніцтва можна датаваць 2-й пал — канцом 16 ст., 2-і і 3-і этапы — пач. 17 ст. У час раскопак выяўлены рэшткі пяціграннай надбрамнай вежы, у тоўшчы паўн.-зах. мура якой былі вітыя ўсходы, што вялі на 2-і паверх палаца. У ніжняй частцы яе падмурка разам з цэглай выкарыстаны камяні Падмуркі паўн.- ўсх., паўд.-ўсх. і паўд.-зах. карпусоў (2 апошнія захаваліся) былі менш глыбокія, чым падмуркі паўн.-зах. корпуса, пад якім зроблены глыбокія падвалы. Пасярэдзіне паўд.-зах. корпуса пабудавана замкавая капліца з гранёнай апсідай. У тыльнай сцяне корпуса, бліжэй да паўд. вежы, знаходзіўся смеццеправод, ад якога захавалася адтуліна, абкладзеная пляскатымі камянямі. Падобная адтуліна, але з паўцыркульным цагляным перакрыццем выяўлена ў паўн.-зах. грані паўд. вежы, што дае падставы меркаваць пра выкарыстанне паўд.-ўсх. часткі замка для гасп. мэт. Будынкі замка былі накрыты плоскай дахоўкай, падлога выкладалася з плітак (таўшч. 5 см) тэракотавых зорка- і крыжападобных з завостранымі канцамі і прамавугольных з зялёнай палівай Печы аздоблены кафляй, пакрытай зялёнай і паліхромнай палівай, з раслінным,

геаметрычным, зааморфным арнаментам. Трапляецца кафля з гербам роду Сапегаў, фрагменты тэракотавай кафлі, пазначанай 1635, калі памер П. Сапега. Вынікі даследаванняў замка даюць падставу меркаваць, што ён з'яўляўся помнікам архітэктуры часоў маньерызму Найбліжэйшыя аналагі — галандскія замкі таго ж перыяду. *І М Чарняўскі*

**ГАЛЬША́НСКІ КЛЯ́ШТАР ФРАНЦЫСКА́НЦАЎ**, помнік архітэктуры 16—18 ст. у в Гальшаны Ашмянскага р-на. У комплекс уваходзяць касцёл Іаана Хрысціцеля, кляштар і жылы корпус. Касцёл — 3-нефавая прамавугольная ў плане базіліка Цэнтральны неф перакрыты цыліндрычным, бакавыя нефы — крыжовымі скляпеннямі З ПдЗ да касцёла прымыкае П-падобны ў плане 2-павярховы будынак кляштара Раскопкі ў 1985—87, 1990 праводзіў А. М Кушнярэвіч Даследаваннямі ўстаноўлена, што касцёл і кляштар будаваліся ў некалькі этапаў, кожнаму з іх адпавядае свая тэхніка ўзвядзення падмуркаў Паміж гэтымі мураўкамі адсутнічае перавязка Яна не прасочваецца і паміж асобнымі праслаамі сцен, што сведчыць пра несінхроннасць іх будаўніцтва. У інтэр'еры касцёла выяўлены падмуркі 3 квадратных у плане (памер 1,35×1,37 м) апорных слупоў, расчышчаны падмуркі храма, які існаваў раней, прасочаны 2 ярусы падлогі 16—19 ст., што знаходзяцца пад сучасным яе пакрыццем. Стратыграфія выяўленых тыпаў муровак і абрысы сутарэнняў усх частк касцёла дазволілі рэканструяваць першапачатковую структуру касцёла Гэта было, напэўна, прамавугольнае 3-нефавае збудаванне з добра развітым трансептам і паўкруглай апсідай Яно ўзведзена ў 2-й пал. 16 ст У сярэдзіне 2-й пал 17 ст. касцёл быў расшыраны У пач. 18 ст. перароблена яго ўсх частка, што прывяло да пераарыентацыі храма. У 16—18 ст. да паўд. фасада касцёла прыбудаваны кляштар. У працэсе археал. даследаванняў на яго паўд.-ўсх. баку расчышчаны рэшткі 2 шасціграннных вежаў, унутры двара — падмуркі галерэі, якая злучала ўсх. і зах. карпусы кляштара з касцёлам Падмуркі вежаў і галерэі складзены ў тэхніцы мяшанай муроўкі. У інтэр'еры храма ў 3 шурфах знойдзены фрагменты фрэскавай размалёўкі 16 ст. У двары кляштара выяўлены 4 фрагменты скульптур з алебастру 17 ст, што знаходзіліся ў капліцы Сапегаў, а таксама архітэктурныя дэталі ад іх надмагілля Сярод знаходак пераважаюць керамічныя вырабы 17—18 ст. бытавы посуд (гаршкі, макотры, рынкі, талеркі, міскі, збаны, кубкі і інш.), тэракотавая паліваная і паліхромная кафля 17 ст. з раслінным, геаметрычным, геральдычным арнаментамі, кафля 18 ст з гладкай паверхняй, будаўнічая кераміка (цэгла, паліваныя пліткі падлогі, плоская і хвалістая дахоўка). Знойдзена шмат шкляных вырабаў 17—19 ст (кілішкі, чаркі, кварты, пляшкі і інш.) Калекцыя металічных вырабаў складаецца з нажоў, відэльцаў, цвікоў, ключоў, манет, падкоў, абутковых падковак і інш.

Да арт **Гальшанскія.** Герб кн Сямёна Юр е віча Гальшанскага Сярэдзіна 16 ст

*Літ* Кушнярэвіч А Францысканскі кляштар у Гальшанах Некаторыя вынікі археал вывучэння // З глыбі вякоў Наш край Гіст -культурал зб Мн, 1992

*А М Кушнярэвіч*

**ГАЛЬША́НСКІЯ**, старажытны княжацкі род, прадстаўнікі якога займалі высокія дзярж. пасады ў ВКЛ, мелі буйныя землеўладанні на Беларусі і Украіне Карысталіся гербам «Гіпацэнтаўр» (выява каня, у якога галава, грудзі і рукі чалавека; замест хваста — пашча дракона, якога паражае страла, выпушчаная з лука рукамі самой жа жывёліны). Генеалагічныя легенды 16 ст. звязвалі паходжанне Г. са стараж. літ. дынастыяй Кітаўрусаў, што панавала ў Літве перад дынастыяй *Віценя* і *Гедзіміна* Магчыма, князі Г. сапраўды паходзілі ад кагосьці з родзічаў вял. князя *Трайдзеня* [1270—82], пазбаўленых улады новай дынастыяй. Радавым гняздом Г. быў *Гальшанскі замак* недалёка ад Ашмян. Найбольш вядомыя прадстаўнікі роду

Іван (упамінаецца ў крыніцах у 1379—1401), сын Альгімонта, першы вядомы прадстаўнік роду Г., актыўны прыхільнік Вітаўта ў час яго барацьбы за велікакняжацкую ўладу, двойчы суправаджаў яго ў эміграцыю ў Прусію Узначальваў пасольства, што адвозіла ў Маскву дачку Вітаўта Соф'ю, нявесту вял. кн. маскоўскага Васіля Дзмітрыевіча. З 1392 — адзін з набліжаных вял. кн Вітаўта, уваходзіў у велікакняжацкую раду. З 1396 — намеснік у Кіеве Атрымаў ад Вітаўта вял. воласці Глуск і Парэчча на р. Пціч, Дубровіцкае княства на р. Гарынь (Украіна) Меў сыноў Андрэя Вязынскага, Сямёна Лютага, Аляксандра Нялюба, Міхаіла і дачку Ульяну (1378—1448), якая была жонкай спачатку кн. І. Карачаўскага, з 1418 — вял. кн. Вітаўта

Андрэй Вязынскі [каля 1365 (?) — каля 1410], сын Івана. Вядомы гал чынам тым, што меў трох дачок, з якіх сярэдняя Соф'я была польскай каралевай

Сямён Люты (? — 1433), сын Івана, актыўны ўдзельнік барацьбы паміж Жыгімонтам Кейстутавічам і Свідрыгайлам за вял. княжанне Намеснік Ві-

Гальшанскі замак 1-я пал 17 ст Рэканструкцыя

Родам з Г. бел. пісьменнік В *Адважны* (Я. Германовіч). У весцы, на левым беразе р Гальшанкі, паселішча 15—18 ст., за 1,5 км на У ад вескі гарадзішча і селішча 12—14 ст.

*Літ* Ткачоў М А Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII—XVIII стст Мн, 1978, Корзун Э С Гальшаны Мн, 1987 *Э С Корзун*

**ГАЛЬШТА́ЦКАЯ КУЛЬТУ́РА,** культура ілірыйскіх і кельцкіх плямен, што жылі на Пд Сярэдняй Еўропы ў раннім жал веку (8—5 ст. да н. э.). Назва ад могільніка каля г. Гальштата (Аўстрыя), адкрытага ў 1846. Пры раскопках больш як 2 тыс пахаванняў знойдзены жал і бронзавая зброя, прылады працы, упрыгожанні, керамічныя вырабы з геаметрычным арнаментам Насельніцтва займалася земляробствам, здабывала медную руду і соль, выраблялa бронзавыя, пазней жал. рэчы, жыло ў драўляных дамах слупавой канструкцыі, а таксама ў паўзямлянках і пабудовах на па́лях Грамадскія адносіны характарызаваліся распадам роду і пераходам да класавага грамадства. На тэр Гомельскай вобл пры раскопках помнікаў *мілаградскай культуры* знойдзены рэчы гальштацкага тыпу шкляныя пацеркі, бронзавыя шпількі, кельты, жалезныя наканечнікі коп'яў, матыка з двума бакавымі выступамі і інш

*Літ* Арциховский А В. Введение в археологию 3 изд М, 1947, Kromer K Das Graberfeld von Hallstatt Firenze, 1959 *Л Д Побаль*

**ГАЛЮ́Н** Сяргей Федаравіч (1866, Пецярбург — ?), адзін з кіраўнікоў першых с-д арг-цый на Беларусі. Скончыў Ваенна-мед. акадэмію ў Пецярбургу (1891) З канца 1891 урач Гродзенскага ваен шпіталя. Адначасова адзін з арганізатараў нядзельнай школы пры Сафійскім брацтве, нар бібліятэкі, чл. санітарнай каміс Гродна, бясплатны доктар мясц. прытулку. З 1892 чл., з 1893 кіраўнік *Гродзенскага рэвалюцыйнага гуртка 1887—94.* Прапагандаваў ідэі марксісцкага кірунку, асуджаў ідэалогію і тактыку «Народнай волі» 26.6 1894 арыштаваны, 18.10.1895 выключаны з ваен. ведамства і на 3 гады высланы ў Архангельскую губ. Уцек з ссылкі і да вер 1900 жыў за мяжой (паводле інш звестак — адбыў тэрмін да канца) З 1901 урач Варонежскай, Цвярской і Пецярбургскай губ У 1917 канд на выбарах у Пецяргофскую гар. думу *Ф І Ігнатовіч*

**ГАМАНКО́Ў** Іван Пракопавіч (27.2 1919, в. Яўкіна Клімавіцкага пав. Магілеўскай губ., цяпер Шумяцкі р-н Смаленскай вобл.— 8 11 1980, Герой Сав Саюза (1945). У 1937 скончыў Канстанцінаўскі шкляны тэхнікум (Данецкая вобл.), Маскоўскае ваен. вучылішча пагранвойск (1939), Вышэйшую школу прафс. руху (1951). У Вял. Айч. вайну на фронце з чэрв. 1941. З снеж 1941 да вер. 1943 у партыз. атрадзе на Смаленшчыне, пасля злучэння яго з Чырв. Арміяй зноў на фронце Вызначыўся ў крас. 1945 пры фарсіраванні р. Шпрэе ў Берліне. З салдатамі пераправіўся цераз

Я Б Гамарнік.

раку і блакіраваў апорны пункт гітлераўцаў. Рота на чале з капітанам Г. адбіла некалькі контратак праціўніка, знішчыла 12 гармат, 6 кулямётаў, 3 мінаметы, больш за 120 фашыстаў Цяжка паранены, не пакінуў поля бою. У 1951—69 на прафс і гасп. рабоце ў Маскве

**ГАМА́РНІК** Ян Барысавіч [2(14).6. 1894, Жытомір — 31 5 1937], савецкі парт і ваен. дзеяч, армейскі камісар 1-га рангу (1935). З 1915 вучыўся ў Кіеўскім ун-це. У рэв. дзейнасць уключыўся ў 1913, з 1916 чл. РСДРП. Пасля Лют. рэвалюцыі 1917 чл., сакратар Кіеўскага к-та РСДРП(б); з кастр 1917 чл рэўкома. У 1918 — 20 чл Усеўкраінскага падп цэнтра, адзін з кіраўнікоў камуніст. падполля на Украіне, чл. РВС Паўд. групы 12-й арміі, камісар дывізіі, старшыня Адэскага, Кіеўскага і губкомаў КП(б)У, Кіеўскага губвыканкома. З 1923 старшыня Дальрэўкома, крайвыканкома, сакратар Далькрайкома ВКП(б) З ліст. 1928 1-ы сакратар ЦК і чл Бюро ЦК КП(б) Беларусі, чл РВС Бел. ваен акругі. Пры яго падтрымцы ў арміі разгарнуўся рух па падрыхтоўцы з дэмабілізаваных воінаў кадраў для калгаснай вескі. З 1929 нач Палітупраўлення Чырв. Арміі, чл. РВС СССР, адказны рэдактар газ. «Красная звезда» З 1930 нам наркома абароны і нам старшыні РВС СССР Канд у чл ЦК ВКП(б) у 1925—27, чл ЦК ВКП(б) у 1927—37 Чл ВЦВК і ЦВК СССР і ЦВК БССР у 1929. У час сталінскіх рэпрэсій беспадстаўна абвінавачаны як «вораг народа», скончыў жыццё самагубствам Рэабілітаваны ў 1956. Яго імем названа вуліца ў Мінску

*Літ* Салехов Н И Я Б Гамарник Очерк о жизни и деятельности М, 1964, Ян Гамарник Воспоминания друзей и соратников М, 1978, Реабилитированы историей М, 1989 С 82—95 *І П Хаўратовіч*

**«ГА́МБУРГ»** («Hamburg»), кодавая назва карнай аперацыі ням.-фаш захопнікаў у Вялікую Айч. вайну. У снеж 1942 супраць партызан і мясцовага насельніцтва ў трохвугольніку Ліда — Баранавічы — Ваўкавыск (міжрэчча Немана і Шчары) тэр Дзятлаўскага, Жалудоцкага, Казлоўшчынскага, Лідскага, Мастоўскага, Навагрудскага, Слонімскага, Шчучынскага р-наў.

Загад на правядзенне аперацыі аддаў рэйхсфюрэр Гімлер і накіраваў яго ў 49 інстанцый рэйха і акупацыйнага апарата. Для яе ажыццяўлення была сфарміравана «баявая група Готберга» (паліцэйскі полк, 5 паліцэйскіх і ахоўных батальёнаў, 2 батальёны вермахта, больш за 15 спец. каманд паліцыі бяспекі і СД, артыл. рот і дывізіёнаў) Камандны пункт кіраўніка аперацыі Готберга размяшчаўся ў Баранавічах. План аперацыі прадугледжваў наступленнем мабільных сіл з У і Пн прыціснуць партызан і мясц. жыхароў, якія адыходзілі з імі, да загараджальнай лініі каля сутокаў рэк Шчары і Немана і знішчыць

7 снежня пачалося прасоўванне карнікаў да месца аперацыі, дзе ў той час знаходзіліся партыз атрады 3649-ы, 54-ы, Арлянскі і імя Варашылава, агульнай колькасцю 800 чал. Яшчэ ў ходзе асенніх баёў 1942 партызаны гэтых атрадаў разграмілі фаш. гарнізоны ў г. п. Казлоўшчына, весках Руда Яварская, Дзярэчын, Галынка і нанеслі ўдары па дарогах Ліда — Ваўкавыск, Ліда — Баранавічы, Ваўкавыск — Баранавічы. У час баявых дзеянняў 12 — 13 снеж пачала фарміравацца Ленінская партыз. брыгада, якая і прыняла на сябе ўдар асноўных сіл карнікаў. 13 снеж партызаны адбівалі атакі гітлераўцаў на подступах да в Галынка і Дзярэчын, в Вострава некалькі разоў пераходзіла з рук у рукі У наступныя 3 дні партызаны стрымлівалі ворага на берагах Шчары. Асабліва жорсткія баі ішлі каля весак Вялікая Воля і Крупіцы. У ноч на 17 снеж. партызаны, пазбегнуўшы акружэння, выйшлі ў раней намечаныя раёны У канцы снеж Гімлер дакладваў Гітлеру «Аперацыя «Гамбург» пад камандаваннем брыгадэнфюрэра СС К. фон Готберга закончана... Страты праціўніка склалі 5172 чал. забітымі, з іх 1674 забіта ў баях, 1510 расстраляна па падазрэнні ў бандыцкай дзейнасці, 2988 чал. расстраляны як пасобнікі » Гэта былі жанчыны, старыя і дзеці з весак Вялікая Воля, Гарадкі, Трахімавічы Дзятлаўскага р-на, Баяры, Задвор'е, Шчара Мастоўскага р-на, Васілевічы, Вербалаты, Ніз, Паўлавічы Слонімскага р-на і інш. У 2-й пал снежня, пасля перагрупоўкі сваіх сіл, гітлераўцы працягвалі аперацыю пад кодавай назвай «Альтона»

*Літ* Гл да арт *Акупацыйны рэжым* *У С Пасэ*

**ГАМІЛЕ́ТЫКА** (ад грэч. homilea прамова), вучэнне аб хрысціянскім казанні. Уваходзіць у склад т. зв. пастырскага багаслоўя. Мае два аспекты гістарычны, які высвятляе асн. плыні і тыпы гамілетычнага вучэння на працягу яго развіцця, і сістэматычны, які адлюстроўвае разнастайныя падыходы да прадмета даследавання М. Барсаў

вылучае ў сістэматычнай Г. тры часткі: фундаментальную (займаецца вывучэннем прыроды казання, азначэннем асаблівасцей яго генезісу), матэрыяльную (разглядае змястоўны аспект прапаведзі), канструктыўную (даследуе прынцып пабудовы, выкладу і абвяшчэння казання). Упершыню аб казанні як прадмеце, які патрабуе спец. вывучэння, выказаліся Аўгусцін Аўрэлій (354—430) у рабоце «Хрысціянская навука» і Грыгорый Дваяслоў (? — 604) у «Пастырскім правіле» Аднак у якасці асобнай галіны ведаў Г. сфарміравалася значна пазней У сярэдневеччы ў Зах. Еўропе першыя спробы тэарэтычнага асэнсавання казання належаць Алкуіну, Герарду Турскаму, Бярнольду Канстанцкаму. Цікавасць да Г значна павялічылася з узнікненнем на пач 13 ст манаскага ордэна дамініканцаў, якія асн. сваім абавязкам лічылі прапаведніцтва Гісторыя развіцця Г азначана барацьбой двух асн. плыняў аўгусцінскай і грыгарыянскай, процістаяннем логікі і інтуіцыі, рытарызму і прафітызму, поглядаў на казанне як на твор красамоўства і адносін да яго як да Богам дадзенага слова. Рытарычнага ўхілу ў Г прытрымліваліся П Абеляр (12 ст ), Алан Лільскі (Вялікі), Банавентура, Фама Аквінскі (усе 13 ст ), Мікалай дэ Ліра (14 ст.), Меланхтон (16 ст.) Сярод тых, хто пачаў адстойваць ідэю благадатнасці казання, быў Бярнард Клярвоскі (12 ст ) Ён і іншыя прыхільнікі прафітызму [І Таўлер (1-я пал 14 ст), Эразм Ратэрдамскі (14 ст), Віклеф, Ян Гус (канец 14 — пач. 15 ст.), Ф Фенелон (канец 17 — пач 18 ст.)] адвяргалі ўласцівае тагачаснаму прапаведніцтву панаванне схаластычных і рытарычных метадаў і прыемаў у казанні. Лютэр унёс у Г погляд на казанне як на прадмет духоўнай патрэбы святара, якая грунтуецца выключна на асабістай веры і з'яўляецца вольнай ад правіл красамоўства На некаторы час Лютэру і яго паслядоўнікам (Брэнц, Бухенгаген) удалося вызваліць Г. ад залішняй рытарызаванасці, але ўжо ў канцы 16 ст. школьна-рытарычны тып Г зноў запанаваў у заходнееўрапейскім хрысціянстве.

Старажытная Русь не мела сваёй уласнай тэарэтычнай гамілетычнай традыцыі, бо праваслаўная свядомасць з яе недаверлівымі адносінамі да «самачыннага» слова не спрыяла развіццю тэарэтычнай навукі і тэарэтызаванню наконт тых пытанняў, што датычыліся дабрачыннага жыцця царквы Апрача таго,асн кананічныя нормы не давалі нікому неабмежаванага права складаць павучанні паводле свайго ўласнага разумення і абвяшчаць іх у царкве У аснову ўсходнеславянскага праваслаўнага прапаведніцтва лягла візантыйская харызматычная традыцыя, пададзеная ў старажытнарускіх зборніках казаннямі пераважна Іаана Златавуста, Васіля Вялікага і Грыгорыя Назіанзіна З 16 ст. на Беларусь і Украіну (а праз іх у хуткім часе і ў Маскоўскую дзяржаву) пачынае актыўна пранікаць заходнееўрапейская адукаванасць і разам з ёю схаластычная гамілетычная традыцыя, уласцівая ў той час рымска-каталіцкаму і пратэстанцкаму прапаведніцтву. Г., а часцей рыторыка, ці «свяшчэнная рыторыка», становіцца абавязковым для вывучэння прадметам у шматлікіх праваслаўных брацкіх школах, царкоўных вучылішчах і вышэйшых навуч. установах. Першая праваслаўная ўсходнеславянская неперакладная работа па Г. — «Ключ разумения» Іанікія Галятоўскага (1659). Яна створана на ўзор заходнееўрапейскіх «свяшчэнных рыторык» і прысвечана высвятленню матэрыяльнага і канструктыўнага аспектаў прапаведзі Аўтар ставіў перад сабой чыста прагматычную задачу дапамагчы святару скласці казанне. Работа змяшчае правілы пабудовы казання, парады вопытнага прапаведніка пачынаючаму і інш. Далейшае развіццё праваслаўнай усходнеславянскай Г. пайшло ў рэчышчы схаластычнай традыцыі. Яе буйнейшыя прадстаўнікі Феафан Пракаповіч, М. М. Сперанскі, Я. Амфітэатраў, М. Фавораў і інш. У канцы 19 — пач. 20 ст ў даследаваннях М. Барсава, Ю. Самарына, А. Говарава, У. Пяўніцкага, Г. Булгакава адзначаецца спроба вярнуць вывучэнне праваслаўнага казання ў сферу спрадвечна ўласцівай яму візантыйскай харызматычнай традыцыі.

*Літ* Амфитеатров Я Чтения о церковной словесности или Гомилетика Ч 1—2 Киев, 1846, Барсов Н И К учению о существе или природе христианской литургийной проповеди Спб , 1897, Яго ж Конспект лекций по гомилетике в 1887—1888 гг Спб, [1888], Булгаков Г И Теория православно-христианской пастырской проповеди (Этика гомилии) Очерк сист курса Курск, 1916, Певницкий В Ф Церковное красноречие и его основные законы 2 изд Спб, 1908

*Л В Ляўшун*

**ГАМУ́ЛКА** (Gomółka) Крысціна (н. 8.4. 1954, г. Гданьск, Польшча), польскі гісторык. Скончыла Гданьскі ун-т (1977) Д-р гуманістычных навук (1986, габілітацыя 1993). У 1978—93 працавала ў Ін-це эканам і гуманістычных навук, з 1993 — у політэхн ін-це ў Гданьску. Даследуе гісторыю беларусаў паміж 1-й і 2-й сусв войнамі, паліт., эканам. і культ. жыццё сучаснай Беларусі, бел. дыяспару. З 1993 рэдактар польска-бел. час. «Dyskusja» («Дыскусія»).

*Тв* Polskie ugrupowania polityczne wobec kwestii białoruskiej Warszawa, 1989, Białorusini w II Rzeczypospolitej Gdansk, 1992

**ГАНАРО́ВЫЯ ГРАМАДЗЯ́НЕ**, прывілеяваная група гарадскога насельніцтва ў Расійскай імперыі ў 1832—1917. У 1785 Кацярына II увяла ў асяроддзе гар. жыхароў катэгорыю славутых грамадзян (выбарныя гар служачыя, вучоныя, архітэктары, мастакі, асобы, якія мелі капітал у 50 і больш тысяч руб., буйныя банкіры) Яны вызваляліся ад цялесных пакаранняў, мелі права на загарадныя дамы і інш. маемасць, будаваць фабрыкі, заводы, караблі. У 1807 уведзена званне першаразрадных купцоў з правам выбару на самыя ганаровыя гарадскія пасады. Астатнія купцы звання славутых грамадзян пазбаўляліся. У 1832 званне славутых грамадзян і першаразрадных купцоў ліквідавана, утворана новае званне Г. г. Падзяляліся на патомных і асабістых. Набыць званне Г г. можна было аўтаматычна па нараджэнні, па хадайніцтву і па службе. Патомнае грамадзянства надавалася па нараджэнні — дзецям асабістых дваран, духоўных асоб якія мелі адукацыйны цэнз (духоўная акадэмія або семінарыя), обер-афіцэраў чыноўнікаў, узнагароджаных ордэнамі св. Ганны або св. Станіслава; па хадайніцтву — камерц- і мануфактур-саветнікам, купцам, якія прабылі ў 1-й гільдыі 10 гадоў або ў 2-й — 20 гадоў і не мелі судзімасці, атрымалі чын або ордэн, пры дбалі маенткі коштам не меней як за 15 тыс. руб., з атрыманнем ссуды — не ніжэй за 30 тыс руб., а таксама вучоным і мастакам, якія мелі ступень Асабістае ганаровае грамадзянства прысвойвалася па нараджэнні — дзецям духоўных асоб, якія не мелі адукацыйнага цэнзу; дзецям, узаконеным дваранамі і патомнымі Г г.; па хадайніцтву — асобам, якія скончылі ун-т або некаторыя вышэйшыя навуч. ўстановы (Акадэмія мастацтваў, політэхн. ін-ты і інш ); па службе — чыноўнікам, якія па «Табелі аб рангах» не мелі права на асабістае дваранства (14—10-га класаў), ваеннаслужачым у чыне обер-афіцэра пры адстаўцы ці пераходзе на цывільную службу і інш. Прашэнне на атрыманне Г г адрасавалася ў дэпартамент геральдыі ўрадавага сената, які на патомнае грамадзянства выдаваў грамату, на асабістае — пасведчанне. Г. г. вызваляліся ад падушнай і рэкруцкай павіннасцей, цялесных пакаранняў, мелі права ўдзелу ў гар. самакіраванні. Ганаровае грамадзянства для асоб, якія атрымлівалі яго вучобай, з'яўлялася пераходнай ступенню ў дваранства. Званне Г г. магло быць страчана ў выніку судовых прыгавораў аб пазбаўленні ўсіх правоў ці абмежавана (напр., пры паступленні Г г ў хатнюю прыслугу) У 1858 на 72,6 млн. насельніцтва (без Фінляндыі) налічвалася 21 348 Г. г. (12 077 патомных і 9271 асабісты; усяго 0,5 % ад гар. жыхароў), у гарадах Віленскай, Віцебскай, Гродзенскай, Магілеўскай, Мінскай губ.— 550 Г г. (231 патомны і 319 асабістых, усяго 0,1 % гараджан). Пасля 1861 кантынгент асоб, якія атрымлівалі званне Г г, значна пашырыўся (уключаны прадстаўнікі пратэстанцкага і мусульманскага духавенства, артысты імператарскіх тэатраў і інш.) У сувязі з гэтым колькасць апошніх павялічвалася, а асяроддзе пражывання выйшла далёка за межы горада. 9 7.1892 выдадзены правілы аб узнагародах, паводле якіх ганаровае грамадзянства магло быць прысвоена асобам усіх саслоўяў і прафесій «за іх карысную дзейнасць» асабістае за службу на працягу 10 гадоў, патомнае — 20 (ці 10 у званні асабістага Г. г) У 1897 у Расійскай імперыі 342 927 Г г (0,3 % ад усіх жыхароў). З іх 183 860 (53,6 %) пражывала ў гарадах У зах

губернях 13 980 Г г. (0,2 % ад усіх жыхароў) 7745 чал. (55,4 %) у весках і мястэчках, 6235 (44,6 %) у гарадах. Па колькасці Г. г. вылучаліся Мінск (1005 чал.), Віцебск (534), Магілеў (493), Гомель (289), Гродна (274), Пінск (237), Брэст (183), Орша (176). Найб колькасць Г. г. у сельскай мясцовасці ў Рэчыцкім (511), Мазырскім (344), Рагачоўскім (340), Пінскім (330), Барысаўскім (326), Бабруйскім (325) паветах. Па саслоўным складзе пераважалі мяшчане, купцы, фабрыканты, нагул прадстаўнікі гандлевай і прамысл. буржуазіі Званне Г. г. скасавана дэкрэтам Сав. урада 11(24) 11 1917 разам з усімі саслоўямі.

У дакастрычніцкай Расіі існаваў таксама тытул Г. г горада, які даваўся за асаблівыя заслугі перад горадам, але не быў звязаны з адметнымі юрыдычнымі правамі і прывілеямі Гэта практыка мае месца і ў нашы дні. Г г. горада становяцца асобы, якія дасягнулі поспехаў у розных галінах ці праявілі мужнасць (вучоныя, спартсмены, вайскоўцы і інш.). Іх імены заносяцца ў Кнігу ганаровых грамадзян горада *Я П Насытка*

**ГАНАРО́ВЫЯ ЗВА́ННІ БЕЛАРУ́СКАЙ ССР**, гл *Званні ганаровыя Беларускай ССР*

**ГАНАРО́ВЫЯ ЗВА́ННІ РЭСПУ́БЛІКІ БЕЛАРУСЬ**, гл. *Званні ганаровыя Рэспублікі Беларусь*

**ГАНДЛЁВА-ПРАМЫСЛО́ВАЯ ПАЛА́ТА РЭСПУ́БЛІКІ БЕЛАРУ́СЬ**, грамадская арганізацыя, закліканая спрыяць развіццю гандлю, эканам. і навук -тэхн супрацоўніцтву з замежнымі краінамі, выражаць інтарэсы сваіх членаў і інш арг-цый у сферы знешнеэканам. і рыначнай дзейнасці. Створана ў Мінску ў снеж. 1972 на базе Беларускага аддзялення Усесаюзнай гандл. палаты (існавала з 1953) Садзейнічае арганізацыі міжнар спецыялізаваных і замежных выставак у рэспубліцы і бел. раздзелаў на міжнар. кірмашах за мяжой, пошуку партнёраў сярод замежных фірм з мэтай утварэння сумесных прадпрыемстваў, інш. форм супрацоўніцтва, праводзіць кантроль якасці і колькасці імпартных тавараў, сыравіны і абсталявання, дэклараванне тавараў, якія экспартуюцца, засведчвае пасведчанні аб іх паходжанні; выконвае заказы на рэкламныя работы, пераклады навук -тэхн. і эканам. л-ры, знешнегандлевай дакументацыі, выраб таварных знакаў; дапамагае яе членам і інш. арг-цыям у патэнтаванні вынаходстваў і прамысловых узораў, рэгістрацыі таварных знакаў за мяжой; ажыццяўляе вучобу і кансультаванне спецыялістаў па пытаннях знешнеэканам дзейнасці. Аб'ядноўвае (на 1 1 1993) 797 дзейных членаў на тэр Рэспублікі Беларусь, у т. л. 273 вытв. аб'яднанні, прамысл прадпрыемствы, 75 навук. устаноў, НДІ і праектна-канструктарскіх бюро, 63 прадпрыемствы і арг-цыі аграпрамысловага сектара, 311 прадпрыемстваў рыначных структур. У кожным абл цэнтры мае свае аддзяленні, у буйных гарадах — бюро таварных экспертыз. У Мінску на базе выставачнага павільёна створана Дырэкцыя вытв. фірмы «Мінскэкспа». Палата мае пагадненні аб супрацоўніцтве з гандл -прамысл. палатамі 19 замежных краін. З'яўляецца заснавальнікам Польска-Беларускай гандл -прамысл. палаты, Беларуска-Польскага гандл. дома, Рэспубліканскай біржы «Беларусь». Пры Палаце функцыяніруюць секцыя па ахове прамысл уласнасці і грамадскі ін-т навук -тэхн. перакладу. *У К Лясун*

**ГАНДЛЁВЫЯ ШЛЯХІ́**, гл. *Шляхі гандлёвыя.*

**ГАНДЛЯРЫ́**, група гарадскога і местачковага насельніцтва ў ВКЛ, якая пераважна займалася мясцовым гандлем, не выязджаючы ў адрозненне ад купцоў за межы горада або мястэчка Г. куплялі ў купцоў прывезеныя здалёк тавары, а ў рамеснікаў — іх вырабы. У літаратурных крыніцах 16 ст вядомы таксама пад назвамі перакупні і прасолы. Г на рынках гарадоў мелі свае крамы (напр., у Бярэсці на рынку рад «крамніц перакупскіх»). З сярэдзіны 16 ст. вылучаецца спецыялізаваны гандаль. Так, у крыніцах 1557 упамінаюцца «ядкі», або «яткі» (мясныя крамы) У гарадах і мястэчках, акрамя рынкаў, гандаль вёўся і ў крамах Да Г адносіліся і шынкары, у 17—18 ст былі і інш катэгорыі Г — «купчыкі» (дробныя купцы), дробныя Г., карабейнікі, у 18 ст — ятчэ і маклеры, гандлёвыя агенты і гандлёвыя служкі. У вял. гарадах аб'ядноўваліся ў карпарацыі — *цэхі* Г складалі ад 10 да 25 % гар. насельніцтва. *А П Грыцкевіч*

**ГАНЕ́НКА** Іван Пятровіч [н 27.2(12.3). 1903, Елізаветград, цяпер Кіравагpaд], дзеяч Камуніст. партыі Беларусі. Удзельнік грамадз вайны. З 1924 на камсамольскай, прафс. і парт рабоце Скончыў Эканам. ін-т чырв прафесуры (1938). У 1941—43 сакратар ЦК КП(б)Б, адначасова ў 1941—42 чл. Ваен савета 13-й арміі, нам. нач. Палітупраўлення Зах. і Волхаўскага франтоў, з 1942 нам. нач. БШПР. У 1945—47 заг. аддзела прамысл. і камунальнага буд-ва ЦК КП(б)Б. З 1948 1-ы сакратар Полацкага абкома КП(б)Б. У 1950—52 сакратар і чл. Бюро ЦК КП(б)Б. У 1952—61 інспектар ЦК КПСС, 1-ы сакратар Астраханскага абкома КПСС Дэп Вярх Савета БССР у 1947—55, Вярх Савета СССР у 1954—62

**ГА́НЗА** (стараверхненямецкае Hanse супольнасць, таварыства), гандлёвы саюз паўн. і цэнтр.-нямецкіх гарадоў у 13—17 ст. на чале з Любекам. Першапачаткова, у 12—13 ст., саюз вандроўных купцоў (наз. «купцамі Рымскай імперыі»), што ператварыўся ў аб'яднанне гарадоў, якія гэтыя купцы прадстаўлялі. Назва «Нямецкая Ганза» ўпершыню вынікарыстана ў 1356. Г. валодала манапаліяй на гандаль у басейнах Паўн. і Балтыйскага мораў, яна мела канторы і факторыі ў зручна размешчаных гарадах (Бруге, Лондан, Бергене, Ноўгарад і інш.). У Любеку — перавалачным пункце і паліт. цэнтры — адбываліся агульныя з'езды ганзейскіх гарадоў, рашэнні якіх былі абавязковыя для усіх членаў саюза За ўвесь час існавання ў Г. ўваходзіла каля 200 гарадоў. Росквіт Г. прыпаў на 2-ю пал. 14 — 1-ю пал. 15 ст. Пад канец 16 ст. яна саступіла сваю ролю англійскім, галандскім і французскім купцам. Занепад Г быў абумоўлены празмернай рэгламентацыяй і кансерватызмам унутр. жыцця, перамяшчэннем міжнар. шляхоў зносін, ростам мясцовага купецтва, развіццём унутр. і знешняга гандлю. З'езд 1669, на якім былі прадстаўлены толькі 6 гарадоў, стаў апошнім. Гандлёвыя сувязі ням. купцоў з гарадамі Бел Падзвіння ўсталяваліся на пач 13 ст. Дагавор 1229 адкрываў шлях купцам Смаленска, Полацка і Віцебска ў Рыгу, на Гоцкі бераг і далей, а немцам вольны гандаль па ўсёй Дзвіне Да сярэдзіны 13 ст. гал. цэнтрам гандлю з немцамі на Дзвіне стаў Полацк, тут з'явілася пастаянная ганзейская факторыя. У адрозненне ад наўгародскай канторы, дзе ням. купцы кожныя паўгода мяняліся, тут яны маглі жыць стала, але асобнага двара не мелі. Ням. абшчына ў Полацку кіравалася статутам 1393, распрацаваным рыжскім магістратам, вярх. ўлада належала Рызе. Галоўным грамадскім месцам і складам быў каталіцкі храм. Росквіт полацкай ганзейскай факторыі прыпаў на гады княжання Вітаўта, які стабілізаваў адносіны з Рыгаю Капыскім мірам 1407. Правы і льготы ням купцоў у Полацку былі шырэйшыя, чым у іншых канторах і дварах Усх. Еўропы. Полацкая ганзейская факторыя існавала да пач 16 ст

*Літ* Russisch — Livlandische Urkundebuch S—Pb, 1868, D o l l i n g e r Ph Die Hanse Stuttgart, 1989 *Г Сагановіч*

**ГА́НЦАВІЦКІ РАЁН.** Размешчаны на ПнУ Брэсцкай вобл. Пл. 1685 км², нас. 37,5 тыс. чал. (1992) Цэнтр — г. *Ганцавічы* Паверхня раёна нізінная, у межах Прыпяцкага Палесся, пад лесам 53 % тэрыторыі. Працякае р. Лань з прытокамі Нача, Цна, Бобрык Вадасховішча Лактышы. 27 балот. Праходзяць чыгунка Баранавічы — Лунінец і аўтадарога Ганцавічы — Лунінец.

Раён утвораны 15.1.1940 у складзе Пінскай вобл. 12.10.1940 падзелены на 12 сельсаветаў Агарэвіцкі, Ганцавіцкі, Дзяніскавіцкі, Кругавіцкі, Кукаўскі, Лактышскі, Люсінскі, Малькавіцкі, Навасёлкаўскі (з 16.7.1954 Свяціцкі), Хатыніцкі, Чудзінскі. У Вял. Айч. вайну раён з канца чэрв 1941 акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія закатавалі ў Ганцавічах і раёне 8,7 тыс. чал. Былі разбураны Ганцавічы, спалена шмат вёсак, разам з насельніцтвам знішчана в. Задуб'е (адноўлена пасля вайны) У ліп. 1941 з мясц. жыхароў быў сфарміраваны асобны Ганцавіцкі партыз атрад, які ў жніўні пацярпеў вял. страты і перастаў існаваць На тэр. раёна дзейнічалі падп райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ, партыз. брыгады імя Леніна, імя Панамарэнкі, імя Свярдлова, 8-я, 208-ы полк імя Сталіна, асобныя атрады «Баявы» імя Дунаева,

імя Шчорса, 113-ы і інш Раен вызвалены ў ліп. 1944 часцямі 61-й арміі 1-га Бел фронту ў ходзе *Беларускай аперацыі 1944* З 8.1.1954 раен у Брэсцкай вобл 22.4.1957 Свяціцкі сельсавет перададзены Ляхавіцкаму р-ну; 25.12.1962 раен скасаваны. Усе сельсаветы, акрамя Малькаўскага, і г п. Ганцавічы перададзены ў Ляхавіцкі р-н, Малькаўскі сельсавет — у Лунінецкі р-н; 30 7.1966 Г р. утвораны зноў. На 1.1.1992 у раене 36 нас. пунктаў, 1 горад, 8 сельсаветаў Агарэвіцкі, Дзяніскавіцкі, Любашаўскі, Люсенскі, Малькавіцкі, Нацкі, Хатыніцкі, Чудзінскі У раене 14 калгасаў Працуюць прадпрыемствы харчовай прамысловасці, рыбгас «Лактышы», будаўнічыя, перасоўныя механізаваныя калоны 14 сярэдніх, 9 васьмігадовых, 4 пачатковыя школы, 30 бібліятэк, 32 клубы, 21 дашкольная ўстанова, 4 бальніцы, 4 паліклінікі, 14 фельчарска-акушэрскіх пунктаў. Раенная газ «Савецкае Палессе». У раене помнікі археалогіі — курганныя могільнікі ў весках Агарэвічы, Дзяніскавічы, Малыя Круговічы, Малькавічы, Ясянец; архітэктуры — Георгіеўская царква 19 ст. ў в. Вялікія Круговічы, Юр'еўскія цэрквы 19 ст. ў весках Будча і Чудзін, Успенская царква 19 ст. ў в Чудзін

**ГА́НЦАВІЧЫ**, горад, цэнтр *Ганцавіцкага раена*, на р. Цна За 246 км на ПнУ ад Брэста Чыг. станцыя на лініі Баранавічы — Лунінец, аўтадарогамі звязаны з Лунінцом, Клецкам, Лагішынам 14,8 тыс. жыхароў (1992).

У 2-й пал 19 ст. Г.— веска Слуцкага пав. Мінскай губ., уладанне графа С. Чапскага Пасля будаўніцтва Палескіх чыгунак — мястэчка, працавалі смалакурня, ніларама У 1897 у Г 633 жыхары У канцы 19 — пач. 20 ст. працаваў шклозавод прамыслоўцаў В. Красоўскага і І Століа, дзе выраблялі аконнае, люстранное шкло і высакаякаснае багемскае (т. зв. бемскае) шкло. У 1909 са ст. Г. былі адпраўлены 45 273 пуды вырабаў са шкла У мястэчку 1026 жыхароў, 157 двароў. У ліст. 1917 устаноўлена сав. ўлада. У 1918 акупіраваны германскімі, у 1919—польск войскамі З 1921 у складзе Польшчы, мястэчка Лунінецкага пав Палескага ваяв. У сак.— крас. 1933 адбылася забастоўка грузчыкаў лесу. Дзейнічала мясц. група КПЗБ. У 1935 2300 жыхароў. З 1939 Г. ў складзе БССР, з 15.1.1940 — гар паселак, цэнтр раена. У Вял. Айч. вайну 30.6.1941 акупіраваны ням.-фаш захопнікамі. Вызвалены 7 7.1944 войскамі 89-га стралк. корпуса 61-й арміі 1-га Бел. фронту і партызанамі брыгады імя Леніна ў ходзе Бел аперацыі 1944. У 1959 у Г 3,5 тыс. жыхароў. З 25.12 1962 да 30.7 1966 уваходзіў ў Ляхавіцкі р-н, пасля зноў цэнтр раена. З 6 12. 1973 — горад. Працуюць камбінаты сельскі і панельнага домабудаўніцтва, скургалантарэйны, эксперыментальны кансервава-агароднінасушыльны, хлеба- і маслазаводы, аграпрамысловае аб'яднанне, леспрамгас, лясгас, метэастанцыя. У горадзе 3 сярэднія, музычная і дзіцяча-юнацкая спартыўная школы, школа-інтэрнат, сярэдняе прафесійна-тэхнічнае вучылішча механізацыі меліярацыйных работ, Дом культуры, Дом дзіцячай і юнацкай творчасці, кінатэатр, 3 бібліятэкі, 6 дзіцячых дашкольных устаноў, бальніца, 2 аптэкі. Выдаецца газ. «Савецкае Палессе». Брацкая магіла сав. воінаў і партызан. Помнікі работнікам леспрамгаса, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, насыпаны курган Славы ва ўрочышчы Горкі.

**ГАНЧА́РНАЯ СІСТЭ́МА МЕР**, сістэма адзінак абазначэння глінянага посуду на Беларусі ў залежнасці ад яго ёмістасці Узнікла ў сувязі з аптовым продажам вял. партый глінянага посуду і абменам яго на збожжа. Вядомы 3 мясцовыя Г. с. м.. палеская, паўночнабеларуская заходнебеларуская, пашыраныя ў 19 пач. 20 ст ў гарадах і мястэчках. Палеская сістэма мер склалася ў былым мястэчку Гародня (в. *Гарадная* Столінскага р-на) мамзэлік (толькі гаршчок) — каля 0,5 л, мамзэль (гаршчок) і мамзэлевыя (міскі, збанкі, гарлачы талеркі) — 1 л, паўзлівач, або семак (гаршчок), і семаковыя (міскі, збанкі гарлачы, слоікі, вазоны) — 1,5—2 л, злівач (гаршчок) і злівачовыя (міскі, збанкі, слаі, гарлачы, макотры, глякі, вазоны) — 3 л, нярознак (гаршчок) і нярознакавыя (міскі, збанкі, гарлачы, макотры, слаі, глякі, вазоны) — 4—6 л, пададзінец (гаршчок) і пададзінцовыя (міскі збанкі, макотры, глякі) — 6—8 л, адзінец (гаршчок) і адзінцовыя (міскі макотры) — 8—16 л, паляк (гаршчок) звыш 16 л. Посуд лічылі на дзесяткі і фуры (ад назвы вял. калес, на якіх развозілі ганчарны посуд). Фура раўнялася 100 умоўным дзесяткам Паўночнабеларуская сістэма мер з некаторымі мясцовымі варыянтамі ўжывалася ў Глыбокім, Дзісне, Бешанковічах і іншых ганчарных цэнтрах пецяронка (кубарка) — 0,5—0,8 л, чацвяронка — 1—1,5 л, траленка — 2—3 л палавінніца — 4—5 л, штука — 8—10 л Адпаведна гэтаму дзяленню на *штуку* прыпадала некалькі (2—5) вырабаў меншай велічыні Адрозніваліся простая і складаная сотні. Простая сотня складалася са 100 штук аднолькавага памеру агульным аб'емам 800—1000 л, складаная — з посуду розных памераў, але такім самым сумарным аб'емам. Заходнебеларуская сістэма мер ужывалася ў Ракаве, Івянцы і іншых ганчарных цэнтрах. Ганчарны посуд дзялілі на цацкавы — каля 0,5 л, сметанковы — 1 л, рублевы — 2 л, квартавы — 3 л паўгарцавы — 4—5 л, гарцавы — 10 л двухгарцавы — 20 л, васьміквартавы (цакавы) — 24 л. Лічылі *копамі*

*С А Мілючэнкаў*

**ГАНЧА́РНАЯ СЛАБАДА́** ў Маскве, месца пасялення ганчароў, цагельнікаў і кафляроў у 16—17 ст Знаходзілася за р. Яузай, на месцы цяперашніх Ганчарных завулкаў і Ганчарнай набярэжнай Упершыню згадваецца ў 1547. У 1638 налічвала 57 двароў, у 1679 — 89. Сюды пераселены ганчары і кафляры, паланеныя на тэр. Беларусі ў час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67. У 1667 на жыхарства ў Г с. пераведзены бел кафляры з Уваскрасенскага манастыра на Істры. Яны ўвайшлі ў штат «дварцовых» майстроў Пасля пасялення бел майстроў ганчарная вытворчасць тут паднялася да ўзроўню мануфактуры з'явіліся вытворчыя будынкі з саматужным абсталяваннем, аформіўся падзел працы (абпальшчыкі, цагельнікі, чорнарабочыя — «ярыжныя» і г. д.). Бел. майстры прынеслі ў Маскву вытворчасць паліхромнай кафлі і керамічнай скульптуры. Сярод іх прац у Маскве аздобы

Круціцкага падворка, цэркваў Рыгора Неакесарыйскага, Успення ў Ганчарах, Верхаспаскага сабора ў Крамлі і інш. У 1672 частка бел. майстроў з Г. с. пераведзена ў навастворануіо *Мяшчанскую слабаду*

*Літ* Снегирев В Московские слободы М 1947; Абецедарский Л С Белоруссия и Россия Очерки рус -бел связей второй половины XVI — XVII в Мн, 1978, Богоявленский С К Научное наследие О Москве XVII века М, 1980

*Г В Прыбытка*

**ГАНЧА́РНЫЯ ВЫ́РАБЫ**, посуд і іншыя гаспадарчыя і дэкаратыўныя рэчы з гліны Форма Г в. мянялася на працягу тысячагоддзяў пад уплывам культурна-бытавых, эканамічных і сацыяльных фактараў. На Беларусі самыя раннія вырабы мелі вастра- і кругладонную форму (гаршкі і кубкі). Развіцце земляробства і жывелагадоўлі павялічыла вытворчасць прадуктаў харчавання і разнастайнасць ежы, што абумовіла змены ў формах Г. в Рэшткі Г. в знаходзяць пры раскопках помнікаў эпохі неаліту. У бронзавым веку масавае пашырэнне атрымаў пласкадонны посуд, у шырокі ўжытак увайшлі прафіляваныя гаршкі для гатавання і захоўвання ежы, кубкі, міскі. Гліняныя пасудзіны выкарыстоўвалі і ў пахавальным абрадзе. У жалезным веку Г. в сталі больш разнастайныя, паявіліся новыя пасудзіны — патэльні, кубкі з вушкамі, гаршкі з накрыўкамі У 10—13 ст. асартымент Г. в. шырокі гаршкі, латушкі для смажаніны, карчагі для вадкасцей, міскі, гарлачы, кубкі, а таксама галаснікі (у культавых пабудовах), каганцы, цацкі і інш. У наступныя стагоддзі змены ў Г. в. датычыліся толькі абрысаў. Формы асобных рэчаў — карчаг і *кафлі* — істотна змяніліся. У перыяд позняга феадалізму сталі больш пашыраныя талеркі, рынкі і інш. У 19 — пач. 20 ст. Г в. былі вельмі разнастайныя паводле форм і бытавога прызначэння. Рабілі посуд для гатавання (гаршкі, макотры, пражэльнікі, рынкі, цадзілкі, адстойнікі), для захоўвання і транспарціроўкі прадуктаў (збаны, карчагі, слаі, гарлачы, глякі, спарышы і інш), сталовы посуд (міскі, паўміскі, кубкі, хлебніцы, масленкі, чайнікі, імбрычкі і інш.), рэчы рознага гаспадарчага ўжытку (рукамыі, паілкі, пасудзіны для гонкі дзегцю і інш.), дэкаратыўную кераміку (фігурны посуд, скульптуру малых форм у выглядзе жывел, букетнікі, вазоны і інш.), ляпілі таксама цацкі Самастойнае значэнне набыла вытворчасць кафлі і дахоўкі. Вырабы аздаблялі геаметрычным і раслінным узорам, пакрывалі рознакаляровай палівай. У 20 ст асартымент Г. в. звузіўся. На дзярж прадпрыемствах асноўныя працаемкія вытворчыя працэсы механізаваны. Вырабляецца бытавы, дэкаратыўны і сувенірны посуд, у т. л. сталовыя і кававыя наборы, букетнікі і інш. Гл. таксама *Ганчарства*, *Кераміка*.

*С А Мілючэнкау*

**ГАНЧАРО́Ў** Усевалад Мікалаевіч (1900, Клімавіцкі пав. Магілеўскай губ.— пасля 1934), дзеяч беларускага нацыянальна-культурнага руху Скончыў Смаленскі ун-т (1928) З 1918 працаваў настаўнікам. З 1924 сябра, з 1925 старшыня бюро *Беларускага студэнцкага зямляцтва* ў Смаленску, кіраўнік студэнцкіх гурткоў беларусазнаўства. У 1925—28 заг. Бел. секцыі пры Смаленскім губ. аддзеле нар. адукацыі. Адзін з арганізатараў 1-й канферэнцыі бел. навучэнцаў г Смаленска 29.11.1925 У 1929—30 дырэктар бел. школы з пед. ухілам, да восені 1930 дырэктар белпедтэхнікума ў Рудні. У 1930 чл. камісіі па асвеце нац. меншасцей абл. аддзела нар. асветы Зах. вобласці РСФСР. У 1930—34 супрацоўнік Смаленскага аддзялення Т-ва пралетарскага турызму і экскурсій. Далейшы лес невядомы. Выступаў у перыяд. друку па пытаннях бел. культ. руху, дзейнасці бел. студэнтаў, працы бел. школ на Смаленшчыне. Найбольш значныя публікацыі па бел. тэматыцы ў газ «Рабочий путь» (Смаленск) «Беларусы ў Смаленскай губерні» (13.1 1926), «Тав. Ігнатоўскі ў Смаленску. Студэнты-беларусы ў Смаленску і іх аб'яднанне» (3.2.1926), «Юбілей паэта Міцкевіча» (10.12 1926), «Навуковая экспедыцыя з Мінска» (23.6. 1927).

*Ю Р Васілеўскі*

**ГАНЧАРО́Ў** Якаў Ігнатавіч [23.3(5 4). 1914, в Зяленкі Мсціслаўскага пав. Магілеўскай губ., цяпер в. Казлоўка Мсціслаўскага р-на — 26.3 1982], Герой Сав. Саюза (1946). З 1931 у Чырв. Арміі. Скончыў Нерчынскую школу малодшых авіяспецыялістаў (1937). Удзельнік баеў на р. Халхін-Гол у 1939. У Вял Айч. вайну з чэрв. 1941 на Зах., Паўд.-Зах., Сталінградскім, Данскім, Цэнтр., Бел. і 1-м Бел. франтах. 24.6 1941 бамбіў варожыя войскі на шашы Гродна — Маладзечна. Дастаўляў зброю і боепрыпасы партызанам злучэння С. А. Каўпака Удзельнік вызвалення Харкава, Кіева, Гомеля, Бабруйска, Мінска, Брэста, баеў на тэр. Германіі. Начальнік сувязі авіяэскадрыллі ст. лейтэнант Г. зрабіў 221 баявы вылет на разведку і бамбардзіроўку ваен. аб'ектаў праціўніка, асабіста збіў 1 самалет, 3 — у складзе групы. Да 1954 у Сав. Арміі Жыў у г Мсціслаў.

**ГАНЧА́РСТВА**, вытворчасць з гліны ганчарных вырабаў гаспадарча- і дэкаратыўна-прыкладного прызначэння. Зарадзілася ў раннім неаліце. Са з'яўленнем ганчарнага круга (на Беларусі ў 10 ст.) вылучылася ў спецыялізаванае рамяство. Першапачаткова вырабы ляпілі з фармовачнай масы рукамі без абпальвання. Паступова асноўным кампанентам фармовачнай масы стала гліна, у якую дадавалі для трываласці сухую траву, лубяныя валокны, тоўчаныя ракавіны, жарству, пясок. З 19 ст фармовачную масу рабілі з двух-трох гатункаў гліны шляхам працяглай пластычнай апрацоўкі (рукамі, нагамі, доўбняй, таркай, стругам і інш.). Падрыхтаваную масу дзялілі на невялікія кавалкі і фармавалі на нажным або ручным ганчарным крузе (уяўляў сабой прыстасаванне з 1—2 дыскаў, цвердa злучаных воссю або спіцамі). Пасля вырабы абпальвалі ў ганчарным горне

Да арт. **Ганчарныя вырабы.** Ганчарны посуд з г п Мір Карэліцкага р-на 1979

(пазней злілся; 338 жыхароў, 53 двары і 303 жыхары, 45 двароў). З 20.8.1924 у Швабаўскім (з 1939 у Чырванашвабаўскім) сельсавеце Зембінскага, з 1927 — Лагойскага р-наў. У 1941—44 акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Уваходзіць у калгас «Юркавічы». У Г сярэдняя школа, бібліятэка, клуб

*В Л Насевіч*

**ГАПАНО́ВІЧ** Дзмітрый Апанасавіч [14(26) 10.1896, в. Танежычы Слуцкага р-на — 29.11.1952], генерал-лейтэнант (1944) Удзельнік грамадз вайны. З 1937 у Паліт упраўленні РСЧА. У Айч. вайну чл. Ваен. савета фронту, Кіеўскай, Уральскай, Маскоўскай ваен акруг, Маскоўскай зоны абароны З 1947 нам па паліт. часціы камандуючага войскамі ваен. акругі, нач. Гал ўпраўлення баявой і фіз. падрыхтоўкі сухапутных войск

**ГАПЕ́ЕЎ** Яфім Данілавіч [н 24.2(8.3) 1908, в. Левенка Старадубскага р-на Чарнігаўскай вобл ], адзін з кіраўнікоў партыз. руху на Беларусі ў Вял. Айч. вайну. З сялян. З 1925 шахцер у Данбасе, з 1931 у Чырв Арміі. Скончыў Рэсп. парт школу пры ЦК КП(б)Б (1949). У 1933—41 на сав. і парт рабоце. З ліп. 1941 па заданні ЦК КП(б)Б пакінуты ў тыле ворага. З студз. 1943 упаўнаважаны ЦК КП(б)Б і БШПР па Лідскай зоне, у крас 1943 — ліп. 1944 камандзір Лідскага партызанскага злучэння, адначасова кіраўнік Лідскага падп міжрайпартцэнтра, сакратар *Баранавіцкага падпольнага абкома КП(б)Б* Пасля вайны на парт. рабоце Ганаровы грамадзянін г. Ліда.

**ГАПО́НАЎ** Захар Платонавіч [21.8 (3.9) 1913, в Клараўка Дняпроўскага пав Таўрыйскай губ (цяпер Скадоўскі р н Херсонскай вобл.) — 21 9 1975], адзін з кіраўнікоў партызанскага руху на Беларусі ў Вял. Айч. вайну. Скончыў ВПШ пры ЦК КПСС (1954) З 1935 у войсках НКУС СССР. У партызанах са жн 1941 камісар атрада, з ліст 1942 6-й Магілеўскай партыз брыгады, камандзір Бялыніцкай, Магілеўскай ваенна-аператыўных груп, 113-га партыз. палка. У 1944—74 на парт. і сав рабоце.

**ГАПЯЁНАК** Мікалай Іванавіч (н. 17.4. 1919, в. Глінішча Гарадоцкага пав, цяпер в Бярозна Гарадоцкага р-на). Герой Сав Саюза (1945). Канд ваен. навук (1960). У Чырв. Арміі з 1939 Скончыў авіяшколу ГПФ у г. Балашове (1939), ваен-авіяц. школу (1940) У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 на Ленінградскім, Паўн.-Зах, Калінінскім, Волхаўскім, Варонежскім, Сцяпным, 1-м і 2-м Укр. франтах, нам. камандзіра эскадрыллі бамбардзіроўшчыкаў авіяпалка, капітан Зрабіў 198 баявых вылетаў. Пасля вайны служыў у ВПС. Скончыў Ваеннапаветр. акадэмію (1951). У 1952—79 на ваенна-пед. рабоце, дацэнт Ваеннапаветр. акадэміі імя Гагарына, палкоўнік.

**ГАРАБУРДА́** Васіль Міхайлавіч, беларускі друкар і кнігавыдавец 16 ст. Многія даследчыкі лічаць яго сынам дыплама́та, пісара ВКЛ Міхаіла Гарабурды (гл. ў арт *Гарабурды*). Аднак упомнены ў завяшчанні апошняга Васіль названы «сыноўцам» (пляменнікам) Верагодна, Г.— сын Анцуты (Міхаіла) Гарабурды, дробнага гаспадарскага шляхціца, уладальніка маентка Макрэц (Гродзенскі пав.). Пад кіраўніцтвам І. Федарава і П Мсціслаўца Г. прымаў удзел у рабоце *Заблудаўскай друкарні* Арганізаваў друкарню ў Вільні, каля 1580 выдаў «Евангелле вучыцельнае» — блізкую копію заблудаўскага 1569, у 1582 — «Актоіх» («Васьмігалоснік») з пасляслоўем, падпісаным ім. Г. працягваў выдавецкія традыцыі Заблудаўскай друкарні, выдаваў кнігі на царк.-слав. мове буйным фарматам, у 2 колеры Друкарня яго перайшла да *Мамонічаў*, якія з 1583 аднавілі выдавецкую дзейнасць. Не выключана, што Г стаў адным з тых друкароў, якім гэта друкарня была абавязана сваім доўгім і пленным існаваннем.

*Літ* Зернова А С Типография Мамоничей в Вильне (XVII век) // Книга Исслед и материалы Ми, 1959 Сб 1

**ГАРАБУ́РДЫ**, шляхецкі род герба *«Габданк»*. Паходзяць, верагодна, з полацкіх баяр. Багдан Г., які жыў у пачатку 16 ст., пакінуў 5 сыноў Сямена, Лукаша, Анцуту, Міхаіла і Яна З іх найбольш вядомы Міхаіл (?—1586), пісар ВКЛ (1566), кашталян менскі (1585). Вызначыўся ў пасольствах да крымскага хана (1559) і ў Маскву (1560, неаднаразова ў 1563—84) У вечнае валоданне атрымаў Свіслацкае старороства (у 1579 правы пацверджаны), валодаў таксама Востравам у Слонімскім пав., Задарожжам і Забалоццем у Полацкім ваяводстве У 1567 ставіў у войска 18 коннікаў. Меў сыноў Яна (?—1613) і Крыштофа (?—1616), з якіх першы валодаў Свіслаччу, другі — Востравам. Нашчадкі абодвух вядомы да пачатку 18 ст. З іншых галін роду Г адна існавала ў Гарадзенскім пав да 2-й пал 19 ст.

*В Л Насевіч*

А К Гаравец.

**ГАРАВЕ́Ц** Аляксандр Канстанцінавіч [27 2(12.3).1915, в. Машканы Сенненскага пав. Магілеўскай губ., цяпер Сенненскі р-н — 6.7.1943], Герой Сав. Саюза (1943) У 1930—31 вучыўся ў Полацкім лясным тэхнікуме Скончыў Віцебскі аэраклуб, Ульянаўскую летную школу (1935). У Вял. Айч. вайну з чэрв 1942 на Паўн.-Каўказскім, Варонежскім франтах. Зрабіў 74 баявыя вылеты, удзельнічаў у 11 паветр баях, знішчыў 11 самалетаў ворага, 40 аўтамашын, 24 павозкі з боепрыпасамі Нам камандзіра эскадрыллі знішчальнага авіяпалка ст. лейтэнант Г. 6.7 1943 у час Курскай бітвы ўступіў у бой з 20 варожымі бамбардзіроўшчыкамі, збіў 9 самалетаў. Г.— адзіны ў свеце летчык, які ў адным паветр. баі збіў столькі самалетаў Загінуў у гэтым баі Пахаваны ў в. Зорынскія Двары Івянянскага р-на Белгарадскай вобл. На 597 км аўтамагістралі Масква — Сімферопаль, у Полацку, у вёсках Скоі і Машканы Сенненскага р-на яму пастаўлены помнікі. Яго імем названы вуліцы ў Мінску, Віцебску, Полацку, Сянно, Багушэўску, саўгас у Сенненскім р-не, сярэдняя школа ў Машканах, Віцебскі аэраклуб На будынку школы ў Машканах мемарыяльная дошка.

*Літ* Мень Г История одного подвига Мн, 1964

**ГАРАВЫ́Я**, археалагічныя помнікі каля в Гаравыя Полацкага р-на

Гарадзішча *днепра-дзвінскай культуры* За 1 км на ПдУ ад вескі, сярод балота на востраве Таўкач. Пляцоўка авальная, памер 28×21 м Даследавалі ў канцы 19 ст. А. М. Семянтоўскі, у 1928 А. М. Ляўданскі, у 1961 А. Р. Мітрафанаў. Культурны пласт 0,25 м. Выяўлены рэшткі доўгіх жытлаў слупавой канструкцыі, каменнае агнішча Знойдзены ляпны гліняны посуд, жал прылады працы, косці жывел і інш

Курганны могільнік полацкіх *крывічоў* (2-я пал 1-га тысячагоддзя н. э.). За 500 м ад вескі 15 курганоў вышынёй да 1 м, дыяметрам да 8 м (раней было 38 круглых і падоўжаных у плане насыпаў). Даследавалі ў 1928 Ляўданскі, у 1980 Вас. А. Булкін Паха-

вальны абрад — трупаспаленне. У адным насыпе выяўлена пахаванне ў слоікавай урне, накрытай пасудзінай. Пахавальны інвентар (шкляныя пацеркі, бронзавыя спіралька і ўпрыгожанні, ляпныя гаршкі) выяўлены толькі ў 3 пахаваннях.

*Літ* Сементовский А М Белорусские древности Вып 1 Спб, 1890, Ляўданскі А М Археалагічныя доследы ў Полацкай акрузе // Зап аддз гуманіт навук БАН Мн, 1930 Кн 11 Пр археал камісіі, т 2, Штыхаў Г В Крывічы Па матэрыялах раскопак курганоў у Паўночнай Беларусі Мн, 1992

*Г В Штыхаў*

**ГАРАГЛЯ́Д** Леанід Іванавіч [31.3(13.4) 1916, Ашгабат — 14.7.1986], Герой Сав. Саюза (1948), ген.-маер авіяцыі (1953). Беларус У Чырв Арміі з 1934. Скончыў акадэміі Ваенна-паветр. (1941), Генштаба (1950). Удзельнік сав.-фінляндскай вайны 1939—40. У Вял. Айч. вайну з кастр. 1941 на Паўд-Зах., 2-м і 1-м Укр. франтах, нач штаба авіядывізіі, камандзір знішчальнага авіяпалка, дывізіі Зрабіў 146 баявых вылетаў, удзельнічаў у 53 паветр. баях, асабіста збіў 15 самалетаў праціўніка і 6 — у групе. Да 1976 у Сав Арміі. Жыў у Маскве.

**ГАРАДАВІКО́Ў** Басан Бадзьмінавіч (15.11 1910, хутар Мокрая Яльмута, цяпер Пралетарскага р-на Растоўскай вобл.— 17.8 1983), удзельнік вызвалення Беларусі ад ням.-фаш. захопнікаў у Вял Айч. вайну Герой Сав. Саюза (1945), ген.-лейт. (1959). У Чырв. Арміі з 1927. Скончыў ваен. акадэміі імя Фрунзе (1938), камандна-штурманскага саставу ВПС (1941), Генштаба (1955). З ліп. 1941 на Зах., Крымскім, 2-м Прыбалт., 3-м Бел., 1-м Далекаўсх. франтах Стралковая дывізія пад яго камандаваннем вызначылася ў аперацыі па акружэнні і разгроме віцебскай групоўкі праціўніка ў чэрв. 1944, у баях за вызваленне Вільнюса, Каўнаса, у час прарыву абароны праціўніка ва Усх. Прусіі. Пасля вайны да 1961 у Сав. Арміі. У 1961—78 1-ы сакратар Калмыцкага абкома КПСС.

**ГАРАДЗЕ́ЛЬСКАЯ У́НІЯ 1413,** саюз ВКЛ з Польшчай, юрыдычна замацаваны ў 3 граматах (прывілеях) 2.10.1413 у замку Гарадле на р. Зах. Буг. 1-я грамата выдадзена ад імя 47 польскіх феадалаў, якія надзялялі 47 феадалаў-католікаў ВКЛ сваімі гербамі і тым самым прымалі іх у свае гербавае брацтва. У 2-й грамаце (да яе было прывешана 45 пячатак феадалаў ВКЛ) феадалы-католікі прымалі гербы польскіх феадалаў і абяцалі быць з імі ў вечнай дружбе і саюзе. У выпадку смерці вял. кн Вітаўта яны абяцалі не выбіраць сабе князя без парады і згоды польскіх феадалаў. Тыя, у сваю чаргу, у выпадку смерці караля Ягайлы таксама не павінны былі выбіраць новага караля без парады і згоды вял. кн. Вітаўта і феадалаў ВКЛ. У 3-й грамаце, якая ўвайшла ў гісторыю як *Гарадзельскі прывілей 1413*, польск. кароль Ягайла і вял. кн. ВКЛ Вітаўт абяцалі назначаць на дзярж. пасады феадалаў-католікаў, якія прынялі польскія гербы, і дазволіць ім свабодна распараджацца маемасцю ў сваіх маентках і тым самым павысіць іх грамадскае становішча да князёў Рурыкавічаў і Гедзімінавічаў, даваць ільготы касцелам, кляштарам і інш. каталіцкім установам. У грамаце абвяшчалася аб'яднанне ВКЛ з Польшчай, аднак гарантавалася захаванне адасобленасці і нязменнасці ўлады вял. князя, тым самым захоўвалася самастойнасць ВКЛ. Г у ўмацоувала сілы ВКЛ і Польшчы ў барацьбе з замежнай агрэсіяй, а таксама мела на мэце задобрыць і супакоіць рымскую курыю, якой быў нанесены ўдар у выніку паражэння Тэўтонскага ордэна ў *Грунвальдскай бітве 1410*

*Кр* Kutrzeba St, Semkowicz W Akta unji Polski z Litwą, 1385—1791 Krakow, 1932

*І А Юхо*

**ГАРАДЗЕ́ЛЬСКІ ПРЫВІЛЕ́Й 1413,** заканадаўчы акт, які юрыдычна замацоўваў *Гарадзельскую унію 1413*, выдадзены ад імя караля Польшчы Ягайлы і вял. кн. ВКЛ Вітаўта. Меў на мэце ўмацаванне і пашырэнне каталіцызму ў ВКЛ. У прывілеі канстатавалася, што з прыняццем каталіцтва ВКЛ «далучаецца, уключаецца, злучаецца, перадаецца» Польскаму Каралеўству. Усе касцелы і каталіцкі клір забяспечваюцца ўсімі правамі і свабодамі згодна са звычаямі Польскага Каралеўства. Паны, шляхта і баяры ВКЛ, якія прымуць каталіцкую веру і атрымаюць гербы, могуць карыстацца прывілеямі і пажалаваннямі, як і польскія паны і шляхта, пацвярджаліся іх правы на свабоднае распараджэнне сваей маемасцю і атрыманне спадчыны. Гарантаваліся правы жанчын на валоданне ўласнымі маёнткамі. Паны і шляхта ВКЛ павінны былі захоўваць пастаянства і вернасць каралю Ягайлу і вял. кн. Вітаўту. Г. п. прадугледжваў увядзенне пасад ваяводы і кашталяна ў Вільні, Троках і інш. месцах. Асабліва важнае значэнне меў артыкул, у якім замацоўвалася правіла, што пасля смерці Вітаўта паны і шляхта ВКЛ ие павінны былі выбіраць сабе вял. князя без згоды Ягайлы і польскіх феадалаў, а тыя пасля смерці Ягайлы таксама не павінны былі выбіраць новага караля без згоды Вітаўта, паноў і шляхты ВКЛ Гэты артыкул, які ўпершыню заканадаўча замацоўваў выбранне вял. князя, супярэчыў і абвяргаў змест першага артыкула, у якім пацвярджалася зліцце ВКЛ з Польшчай, бо калі выбіраўся асобны вял. князь, то захоўвалася самастойнасць дзяржавы. А канстатацыя факта, што караля Польшчы павінны былі выбіраць толькі са згоды Вітаўта і феадалаў ВКЛ, сведчыць аб раўнапраўным становішчы ВКЛ і Польскага Каралеўства. Прывілей прадугледжваў магчымасць склікання агульных соймаў феадалаў Польшчы і ВКЛ Сцвярджэнне, што ўсе некатолікі, у асноўным праваслаўныя (а яны складалі большасць насельніцтва княства), не павінны былі дапускацца на дзярж. пасады і засядаць у панскай радзе, мела ідэалагічны, а не практычны характар, бо большасць мясцовага кіраўніцтва і значная частка паноў-рады належалі да праваслаўнай веры. А ўсе напышлівыя фразы аб зліцці, злучэнні, далучэнні і ўключэнні ВКЛ у склад Польшчы не мелі ў той час рэальнага значэння, бо традыцыя ўзаемаадносін паміж Польшчай і ВКЛ якая склалася на аснове асабістай (персанальнай) уніі, не мянялася.

*Літ* Белоруссия в эпоху феодализма Сб документов и материалов Мн, 1959 Т 1 С 115—118, Юхо І Крыніцы беларуска-літоўскага права Мн, 1991 С 32—35, Kutrzeba St, Semkowicz W Akta unji Polski z Litwą, 1385—1791 Krakow, 1932 S 60—72

*І А Юхо*

**ГАРАДЗЕ́НСКАЕ КНЯ́СТВА,** удзельнае княства пач. 12 — пач. 15 ст Цэнтр — г. Гарадзен *(Гродна)* Вядома як вотчына *Усевалада Давыдавіча* пасля яго шлюбу ў 1116 з дачкой Уладзіміра Манамаха. Размяшчалася ў басейне сярэдняга Немана. Выгаднае геагр становішча (выхад у Балтыйскае мора па Немане, яго прытокі звязвалі з басейнамі Зах. Дзвіны, Прыпяці, Дняпра) спрыяла хуткаму эканам і культ. развіццю княства У 1128 Усевалад прымаў удзел у паходзе кіеўскага кн. Мсціслава Уладзіміравіча на Полацк, у 1132 — на Літву У 1144 князі *Барыс Усеваладавіч* і *Глеб Усеваладавіч* удзельнічалі ў паходзе кіеўскага кн Усевалада на Галіцка-Валынскае княства. У 1150 Барыс падтрымаў Ізяслава Мсціславіча ў барацьбе за кіеўскі стол, у 1151 яго войскі прымалі ўдзел у аблозе Кіева, пасля чаго гналі войска кн. Юрыя Уладзіміравіча да Белгарада. У 1174 гарадзенскія палкі на чале з Мсціславам Усеваладавічам удзельнічалі ў паходзе Андрэя Багалюбскага на Кіеў. У 1167, 1170, 1184 у складзе аб'яднаных дружын хадзілі на полаўцаў. У апошняй чвэрці 12 ст склалася *гродзенская архітэктурная школа*, у традыцыях якой былі пабудаваны Барысаглебская (Каложская), Ніжняя і Прачысценская цэрквы ў Гарадзені. Развіта была пісьменнасць і прыкладное мастацтва (археал знаходкі медных гравіраваных пласцін, літых фігурак, шахматных фігур, глянцаванага, дымленага, паліванага керамічнага посуду з разнастайнай арнаментацыяй і інш.). З 1240-х гадоў у складзе ВКЛ У 1253 і 1259 на княства нападалі галіцка-валынскія войскі кн. Данілы Раманавіча. У 1274 кн. ВКЛ Трайдзень з дапамогай гарадзенскіх войск адваяваў у галіцка-валынскіх князёў г Драгічын Надбужскі, у 1276 пасяліў у ваколіцах Гарадзена прусаў, якія ўцякалі ад нямецкіх рыцараў. У 1277 Гарадзен вытрымаў напад галіцка-валынскіх і татарскіх войск. У 1284—1402 на княства адбываліся шматлікія грабежніцкія напады крыжакоў, якія ў 1299—1326 паспяхова адбівалі войскі на чале з кашталянам гарадзенскага замка *Давы*

ходкі якіх часткова засталіся ў маентку, трапілі ў Маскоўскі гіст музей і Віленскі музей старажытнасцей. У канцы 19 — пач 20 ст. маентак належаў Свентаржыцкім, Ахматовічам. У 1866 пабудавана праваслаўная Феадосьеўская царква, працавала школа. У 1866 у Г. 33 жыхары, 4 дамы, у пач. 20 ст.— 14 жыхароў У 1906—07 настаўніка А Ф. Посаха наведваў Я. Купала. З 1921 Г у складзе Польшчы. З 1939 у БССР, з 12.10.1940 цэнтр сельсавета Маладзечанскага р-на У Вял. Айч вайну ў чэрв 1941 — ліп. 1944 акупіравана ням.-фаш захопнікамі. У 1940—50-я гады побач з Г пабудаваны паселак тарфянікаў Беразінскі У 1970 225 жыхароў, 51 двор Цэнтр калгаса «Гарадзілава». У весцы б-ка, Дом культуры Помнік землякам, што загінулі ў Вял. Айч. вайну; на вясковых могілках мемарыяльны знак памерлым ад чумы ў 1850-я гады.

*Літ* Каханоўскі Г А На запаветнаи зямлі Мн, 1974 Я г о ж Повязь часоў Мн, 1985 *Г А Каханоускі, В У Шаблюк*

**ГАРАДЗІЛАЎКА,** археалагічныя помнікі 10—12 ст каля в Гарадзілаўка Навагрудскага р-на.

Селішча За 500 м на У ад вескі, на левым беразе безназоўнага ручая. Пляцоўка 130×125 м Адкрыла і абследавала ў 1956 Ф. Д. Гурэвіч Культурны пласт 0,5 м. Выяўлены рэшткі заглыбленых у зямлю і наземных жытлаў, гасп. ямы. Знойдзены тронкавы нож, ключ, абломкі шкляных бранзалетаў, лыжкарэз, бронзавыя вырабы, крамяневы наканечнік стралы, фрагменты ляпнога і ганчарнага посуду.

Курганны могільнік-1 За 250 м на З ад селішча. Было больш за 10 насыпаў дыяметрам 5—12 м, вышыней да 2 м. Даследавалі ў 1892 М А. Цыбішаў, у 1956 — Гурэвіч Пахавальны абрад — трупаспаленне. Сярод знаходак тронкавыя нажы, крэсівы, жалезныя і бронзавыя спражкі, тачыльныя камяні, бронзавыя завушніцы, скроневае кольца і бранзалеты, сердалікавая 14-граневая, жоўтая паставая і шкляныя пацеркі, абломкі ганчарнай керамікі

Курганны могільнік-2. За 500 м на З ад могільніка-1. Было каля 40 курганоў дыяметрам 5—10 м. Даследавала 1 насып у 1956 Гурэвіч. У невялікай яме выяўлены касцяк нябожчыка галавой на З., абкладзены камянямі.

*Літ* Цыбишев М А Раскопка в конце 1892 г некоторых курганов близ г Новогрудка Минской губернии // Каталог предметов, доставленных на археологическую выставку при IX Археологическом съезде в Вильне в 1893 г Вильна, 1893, Гуревич Ф Д Древности Белорусского Понеманья М, Л, 1962 *В У Шаблюк*

**ГАРАДЗІШЧА,** рэшткі старажытнага ўмацаванага паселішча або горада. Назва паходзіць ад стараж.-рускага «гарадзіці» — агароджваць. Тэрмін «гарадзішча» ў сэнсе «ўмацаванае пасяленне, гарадок» сустракаецца з 12 ст. ў «Аповесці мінулых гадоў» Найчасцей Г. вызначаюцца валамі, равамі, рэшткамі сцен, наяўнасцю культурнага пласта Паяўленне Г звязана з эпохай патрыярхату і пераходам насельніцтва да заняткаў жывелагадоўляй і земляробствам. Рост прадукцыйных сіл садзейнічаў паяўленню і паглыбленню супярэчнасцей паміж родамі і пляменамі, што і выклікала ўзмацненне ваеннай небяспекі. Узнікла неабходнасць пасяляцца на ўмацаваных прыродай мясцінах і, больш таго, будаваць абарончыя ўмацаванні, каб больш эфектыўна абараняць маемасць роду ад варожых нападаў. Самыя стараж Г. на Беларусі вядомы з позняга бронзавага веку, але найб. пашыраны яны былі ў раннім жал веку (з 9—8 ст да н. э.). Часта Г. папярэдняй эпохі выкарыстоўваліся насельніцтвам больш позняга часу. Напрыклад, Г. плямен мілаградскай, зарубінецкай, штрыхаванай керамікі і днепрадзвінскай культур выкарыстоўвалі плямены 2-й пал. 1-га тысячагоддзя н э., потым сярэдневяковае насельніцтва Беларусі. Звычайна Г. будавалі на ўзвышаных месцах, каля берагоў рэчак і вадаемаў, найчасцей паблізу іх вусцяў. Размяшчаліся яны і паасобку і групамі (гнездамі па 3—5 і болей), што адлюстроўвала сацыяльную структуру развітога патрыярхату, дзе асноўнай гасп. адзінкай была вял. сям'я з 40—60 чал., што пражывала на адным гарадзішчы. Некалькі такіх сем'яў складалі радавую супольнасць (некалькі Г.), якая мела сваю пэўную тэрыторыю для пражывання, апрацоўкі глебы і пашавых угоддзяў. У залежнасці ад месца ўзвядзення Г. на Беларусі тыпалагічна падзяляюць на ўзгоркавыя, мысавыя і балотныя. Іх колькасныя суадносіны звязаны з рэльефам канкрэтнай мясцовасці Узгоркавыя Г будавалі на пасляледавіковых парогах-астанцах, мысавыя — на высокіх берагах рэк і азер, балотныя — сярод поймавых нізін, балот і лясоў. На Пн і ў цэнтры Беларусі часцей сустракаюцца ўзгоркавыя Г, на Пд — мысавыя і балотныя. Звычайна Г. маюць культурны пласт, у якім пры раскопках знаходзяць рэшткі жытлаў, майстэрняў, розныя рэчы. Выключэнне складаюць балотныя гарадзішчы-сховішчы, дзе насельніцтва хавалася ў час ваеннай небяспекі. Некаторыя даследчыкі звязваюць іх са скіфскімі традыцыямі будаваць вял загоны для жывелы Тыпалагічную характарыстыку Г складаюць і такія фактары, як форма выгляд абарончых збудаванняў і суадносіны іх асобных элементаў, дасканаласць і адпаведнасць пэўным абарончым задачам Форма пляцоўкі Г залежала ад канфігурацыі мысоў ці ўзвышшаў Узгоркавыя звычайна мелі круглую ці авальную форму пляцоўкі, мысавыя былі трохці чатырохвугольнымі. Плошча Г ранняга жалезнага веку звычайна ад 0,5 тыс. да 2 тыс $м^2$ і болей, а больш позняга часу ад 2 да 10 тыс. $м^2$ і болей. Сістэма абарончых збудаванняў з цягам часу ўскладнялася ад простых канструкцый з вастраколаў да складанай фартыфікацыйнай сістэмы з валоў і равоў На валах узводзілі сцены з бярвен. У раннім сярэднявеччы на месцы былых Г часта ўзнікалі гарады, замкі і сядзібы феадалаў Да сенняшняга часу на Беларусі захавалася каля 1 тыс. Г. розных часоў

*Літ* Авдусин Д А Археология СССР 2 изд М, 1977, Очерки по археологии Белоруссии Ч 1 Мн, 1970, Штыхов Г В Археологическая карта Белоруссии Вып 2 Мн, 1971 *В І Шадыра*

**ГАРАДЗІШЧА,** гарадзішча культуры штрыхаванай керамікі (4—5 ст. н. э.) каля г п. *Гарадзішча* Баранавіцкага р-на. Размешчана за 0,5 км на ПдЗ ад паселка, на ўскрайку забалочанага поля, на ўзгорку вышыней 8—10 м са стромкімі схіламі Пляцоўка авальная, паме-

рам 75×30 м, умацавана з боку поля валам, месцамі пашкоджана ямамі. Культурны пласт да 1,5 м. Даследавалі ў 1955 Ф. Д. Гурэвіч, у 1988—89 А. М. Мядзведзеў Выяўлены рэшткі абарончых умацаванняў і жытлаў. Паселішча было ўмацавана драўлянай сцяной па краі пляцоўкі, на якой захаваліся ямы ад апорных слупоў. У двух месцах было дадаткова ўмацавана драўлянымі чатырохвугольнымі ў плане вежамі, ад якіх засталіся рэшткі фундаментаў, выкладзеных з каменю. Ад жытлаў захаваліся вогнішчы ў выглядзе ям, запоўненых абпаленым каменнем. Размяшчэнне вогнішчаў і адсутнасць ям ад слупоў жытлаў сведчаць, што пляцоўка была забудавана невял. чатырохвугольнымі зрубнымі жытламі. Знойдзены вял. колькасць ляпнога посуду, шкляная і бурштынавыя пацеркі, бронзавае скроневае кольцы, двухшыповы наканечнік стралы, серп і інш. *А М Мядзведзеў*

**ГАРАДЗІШЧА,** комплекс археал. помнікаў каля в. Гарадзішча Мінскага р-на.

Гарадзішча *штрыхаванай керамікі культуры*, 9—11 і 17—19 ст. У вёсцы, на правым беразе перасохлай р. Менка, за 2 км ад упадзення яе ў Пціч. Складаецца з малога (1 пляцоўка, памер 80×16 м) і вялікага (2 пляцоўкі, памер 110×80 м) гарадзішчаў агульнай плошчай 1,3 га. З боку поля ўмацавана ровам (цяпер аплыў), валамі вышынёй з вонкавага боку 8—10 м, у асобных месцах 12 м (абкружаюць 3 пляцоўкі). Пляцоўка на малым гарадзішчы вышэйшая за астатнія. Другая, большая пляцоўка з'яўляецца асн. тэрыторыяй вялікага гарадзішча і мае нахіл у паўн. напрамку. Трэцяя пляцоўка прымыкае да другой з паўн. боку і знаходзіцца ніжэй за яе на 8—9 м. Гарадзішча мае 3 уваходы: першы каля паўн.-ўсх. вугла (вядзе з ніжняй пляцоўкі да ракі), другі (першапачатковы) знаходзіцца побач, трэці каля паўн.-зах. вугла. У малое гарадзішча можна было прайсці толькі з вялікага. Абследаванні і раскопкі праводзілі ў 1930 А. Рынейскі, у 1935 А. М. Ляўданскі, у 1954 А. Р. Мітрафанаў, у 1963, 1967 З. М. Загарульскі, у 1969, 1970 М. А. Ткачоў, у 1976—83 Г. В. Штыхаў. Культурны пласт 0,3—2 м. Выяўлена гісторыя будаўніцтва гарадзішча. На мяжы нашай эры ўзнікла малое гарадзішча, дзе жыло насельніцтва культуры штрыхаванай керамікі і *банцараўскай культуры.* На краі пляцоўкі быў узведзены вал. У канцы 1-га тысячагоддзя н. э. прыбудавана вялікае гарадзішча, якое выконвала ролю вакольнага горада. Умацавана валам вышынёй 4 м з гароднямі (памер 3,5×4 м) у 3 рады, шчыльна запоўненымі суглінкам і супескам. Калі вонкавыя ўмацаванні былі знішчаны агнём, вал рэканструяваны, яго вышыня падвоена і на грэбені пастаўлены частакол. Гарадзішча кантралявала акругу паміж Нёманам і Пціччу, па якой праходзіў гандлёвы шлях з Балтыйскага мора ў Чорнае. Як цэнтр акругі спыніла існаванне ў 2-й пал. 11 ст., калі было пабудавана замчышча на беразе Свіслачы пры ўпадзенні ў яе Нямігі. Знойдзены амулет 2—3 ст. н. э. з егіпецкага фаянсу ў выглядзе плоскай пацеркі авальнай формы з рэльефнай выявай крылатага бажаства, гліняныя праслівы, посуд штрыхаванай керамікі і банцараўскай культур, ганчарная кераміка з арнаментам раменскага тыпу, абгаралае зерне, бронзавыя спражкі і наканечнік ножнаў мяча, жалезныя наканечнікі стрэл, кераміка з клеймамі ў выглядзе знака Рурыкавічаў (трызубец), паўднёвыя амфары, жорны, пацеркі-лімонкі (10—11 ст.), кафля, манеты, жалезныя вырабы, ганчарны посуд (17—19 ст.).

Селішча 9—11 ст. На Пд і У ад гарадзішча (памер 500×150 м), на З ад гарадзішча, уздоўж р. Менка (памер 400×300 м), уздоўж левага берага р. Менка (памер 900×200 м). Агульная плошча каля 30 га. Даследавалі ў 1963 Загарульскі, у 1975, 1983 Штыхаў. Культурны пласт 0,3—1,4 м. Выяўлена больш за 80 гаспадарчых ям (7 з іх прамавугольныя), рэшткі майстэрні па вырабу праслиц з ружовага шыферу. Знойдзены касцяныя шахматная фігурка каня і пісала з выявай галавы звера, ганчарная кераміка, жал. вырабы (ключы, крэсівы, нажы, цвікі і інш.), шкляныя і сердалікавыя пацеркі, металічныя ўпрыгожанні.

Курганны могільнік-1 11 ст За 1,5 км на Пн ад гарадзішча. 2 насыпы вышынёй 1,6 м, дыяметрам 11 м. Даследаваў 1 курган у 1979 В. А. Карпека. Пахавальны абрад — трупапалажэнне галавой на З. Знойдзены жал. цвікі, фрагменты гаршкоў.

Курганны могільнік-2 11 ст За 200 м на Пн ад могільніка-1. 13 насыпаў вышынёй 0,3—2,5 м, дыяметрам 3—11 м. Даследаваў 1 курган у 1979 Карпека. Знойдзены фрагменты ганчарных гаршкоў. Абодва могільнікі з'яўляюцца рэшткамі некропаля ў наваколлі гарадзішча.

Бескурганны могільнік 11 ст. На тэр. селішча, на Пд ад гарадзішча, на правым беразе р. Менка. Даследаваў 1 курган у 1979 Карпека. Культурны пласт на глыбіні 0,2—0,4 м. Выяўлена 18 шкілетаў жанчын і дзяцей. Пахавальны абрад — трупапалажэнне галавой на З.

Археал. комплекс на р. Менка папярэднічаў узнікненню ўмацаванага замчышча на Нямізе і, магчыма, тут у 10—11 ст. быў першапачаткова Менск (Мінск), які сваю назву атрымаў, верагодна, ад р. Менка.

*Літ.:* Штыхов Г. В. Города Полоцкой земли (IX—XIII вв.). Мн., 1978; Загорульский Э М Возникновение Минска Мн., 1982. *Г. В. Штыхаў*

**ГАРАДЗІШЧА,** група археал. помнікаў жалезнага веку каля в. Гарадзішча Мядзельскага р-на.

Гарадзішча *штрыхаванай кера-*

Рэчы з гарадзішча Гарадзішча (Мінскі р-н)

мікі культуры і банцараўскай культуры. За 500 м на З ад вёскі, на ўзгорку, злева ад шашы Княгінін — Мядзел. Пляцоўка авальная (62×36 м), умацавана 2 дугападобнымі валамі унутраным па краі пляцоўкі вышыней 0,6—0,7 м, шырынёй 8 10 м і вонкавымі на схіле ўзгорка, на 4—5 м ніжэй за край пляцоўкі. Адкрыў у 1893 Ф. В. Пакроўскі, даследавалі ў 1969—73 А. Р. Мітрафанаў, у 1986—88 археал экспедыцыя БДУ пад кіраўніцтвам Э М. Загарульскага На думку Мітрафанава, першапачаткова па краі пляцоўкі на невялікай падсыпцы была пастаўлена драўляная сцяна, якая пазней згарэла. У канцы 1-га тысячагоддзя да н э.— пач. 1-га тысячагоддзя н э пляцоўка значна павялічана, па яе краі ўзведзена новая абарончая сцяна, таксама знішчана пажарам. У 5—6 ст. н. э пляцоўка зноў павялічана, яе ўсх. бок дадаткова ўмацаваны ўнутраным валам, астатняя частка пляцоўкі абнесена новай абарончай сцяной, на схіле ўсх. часткі выкапаны роў і насыпаны вонкавы вал У гэты час выкарыстоўвалася як гарадзішча-сховішча для насельніцтва, што жыло на суседнім селішчы Культурны пласт ад 0,25 м у цэнтры да 1,65 м каля краю пляцоўкі Выяўлены крушні камянёў, каменныя вымасткі ў 2—3 рады, больш за 20 гасп. ям круглай, авальнай і чашападобнай формы. У адной з ям выяўлена 2 узвышэнні, плоскія паверхні якіх вымашчаны камянямі Пограб меў драўлянае перакрыцце, аснову якога складалі ўкапаныя па перыметры слупы. Выяўлены таксама гліняныя лінзы акруглай формы дыяметрам 0,4—0,75 м, акаймаваныя равкамі глыбінёй 0,1 м, запоўненыя культурным пластам і дробным вуголлем Лінзы мелі, напэўна, культавае прызначэнне. Для ранняга этапа гарадзішча характэрны гліняныя штрыхаваныя гаршкі слоікавых і слабапрафіляваных форм. Апошнія ўпрыгожваліся ямкавымі ўціскannямі, якія наносілі ў лінію праз пэўныя інтэрвалы на шыйцы пасудзін, або ямкамі, згрупаванымі ў трохвугольнікі. На другім этапе пашырыліся рабрыстыя штрыхаваныя гаршкі, нязначная частка якіх арнаментавана зашчыпамі або ямкавымі ўціскannямі на рабры пасудзіны Знойдзены жал сякера кельт, зубіла, сярпы, нажы, каса, шылы, посахападобныя шпількі, каменныя зерняцёркі, тарачнікі, тачыльныя брускі, загатоўка каменнай пацеркі, бронзавыя скроневае кольца, пранізка, авальная спражка, накладка на пояс, гліняныя праслiцы, тыглі, грузілы, грузікі і інш. На трэцім этапе перавакалі слабапрафіляваныя гаршкі з невялікім адагнутым вонкі венчыкам з загладжанай або храпаватай паверхняй без арнаментацыі, прылады працы, упрыгожанні і зброя (сярпы, нажы, посахападобныя шпількі, шылы, шпоры, трапецападобныя падвескі, льячка, біканічныя праслiцы) і інш.

Селішча банцараўскай культуры (6—7 ст.). На паўн., паўн.-зах. і зах. частках пакатых схілаў гарадзішча. Адкрыў у 1964, даследаваў 2612 $м^2$ у 1965—72 Мітрафанаў. Выяўлены рэшткі 42 жытлаў, у т. л. 11 слупавых (5 наземных і 5 урэзаных у схілы ўзгорка) і 31 зрубныя (14 паўзямлянкавых і 15 урэзаных у схілы ўзгорка), 17 гасп. ям. Слупавыя дамы прамавугольнай або трапецападобнай формы, плошчай 10—21 $м^2$. Дыяметр слупоў, што фарміравалі каркас пабудоў, дасягаў 0,4—0,5 м, дыяметр гарызантальных бярвен, што ўпускаліся ў пазы слупоў — 0,25—0,3 м. У цэнтры жытлаў размяшчаліся адкрытыя круглыя або авальныя агнішчы ў выглядзе гліняных пляцовак таўшчынёй 0,08—0,12 м з умазанымі камянямі. Зрубныя пабудовы былі прамавугольныя, іх плошча 6,2—15 $м^2$, глыбіня катлаванаў у залежнасці ад стромкасці схіла вагалася ад 0,2 да 0,6 м, арыентаваны ў большасці выпадкаў па напрамках свету. У шэрагу паўзямлянак захаваліся рэшткі ніжніх бярвен зрубаў у выглядзе абвугленага дрэва або скопішчаў вугалю ўздоўж сцен катлаванаў. У некаторых выпадках прасечаны ўваходы ў жытлы (у адной паўзямлянцы ўваход размяшчаўся з паўн. боку і ўяўляў сабой напаўавальны выступ) Зрубныя пабудовы ацяпляліся печамі-каменкамі, рэшткі якіх у выглядзе развалаў буйных абпаленых камянёў размяшчаліся ў адным з куткоў жытлаў. Недалёка ад дамоў выяўлены гасп. ямы авальнай, прамавугольнай або круглай формы. Сцены прамавугольных ям-паграбоў амаль вертыкальныя, у астат ніх — пакатыя. У 5 буйных авальных ямах былі прыступкі. У жытлах знойдзены фрагменты гладкасценных гаршкоў (слабапрафіляваных, цюльпанападобных, слоікавых, рабрыстых, акруглабокіх), місак і міскападобных пасудзін а таксама жал. сярпы, нажы (з прамой спінкай і валютападобным навершам), шылы, наканечнікі кап'я, шпоры, падковападобная фібула, посахападобная шпілька, бронзавы пласціністы бранзалет і бранзалеты, зробленыя з круглых і квадратных у сячэнні стрыжняў, трапецападобныя падвескі, кольцы, пранізка, абломкі сярэбраных шыйных грыўняў, гліняныя біканічныя праслiцы, тыглі

Фрагмент керамікі з кляймом у выглядзе трызубца з гарадзішча Гарадзішча (Мінскі р-н)

*Літ* Митрофанов А Г Железный век Средней Белоруссии (VII—VI вв до н э — VIII в н э) Мн 1978, Очерки по археологии Белоруссии Ч 1 Мн, 1970

*А А Егарэйчанка*

**ГАРАДЗІ́ШЧА,** археалагічныя помнікі каля в Гарадзішча Пінскага р-на

Гарадзішча На мысападобным выступе ўсх. берага воз Палескае. Пляцоўка авальная, памер 27×22 м Абследавалі ў 1928 Р. Гарашкевіч, у 1961—70 Ю. У. Кухарэнка, Л Д. Побаль, В. Б. Караткевіч, абследавала ў 1981 і даследавала ў 1983, 1986 В. С Вяргей Культурны пласт 2,4—3 м. У яго верхнім слоі выяўлены падмурак васьмівугольнай капліцы і пахаванні 18—19 ст Часткова збярогся вал вышынёй 0,7—1,8 м, насыпаны з пяску, верагодна, на мяжы 7—8 ст Каля вонкавага яго схілу выяўлены рэшткі канструкцыі, што мацавала вал ад асыпання, на вяршыні вала — рэшткі 2 слупоў Пад валам — непарушаны культурны пласт 0,7—0,9 м з рэчамі эпохі неаліту, бронзавага веку, мілаградскай і зарубінецкай культур. крамянёвыя вырабы, жал нажы, шылы, рыбалоўныя кручкі, бронзавае скроневае кольца, рэшткі металургічнай вытворчасці, гліняныя праслiцы, косці жывёл і інш Ляпная кераміка ў большасці суадносіцца з керамікай

Жалезныя кельт, серп, шпора, бронзавае люстэрка з гарадзішча Гарадзішча (Мядзельскі р-н)

пражскай культуры (тыпу Лукі Райкавецкай, 8—9 ст.), назіраецца пераход да вырабу ганчарнай керамікі (некаторыя ляпныя пасудзіны падпраўлены на ганчарным крузе). Стратыграфічны і рэчавы аналіз раскопак дазваляе меркаваць пра ўзнікненне паселішча на беразе возера ў раннім неаліце. Пясчаны вал насыпаны на зарубінецкім пласце славянскім насельніцтвам, якое з Пд ішло на Прыпяць і яе прытокі. Археал. комплекс Г. дазваляе прасачыць генетычную сувязь пражскай культуры з эпохай Кіеўскай Русі.

Селішча. Прылягае да гарадзішча з У, аддзелена ад яго прыродным ровам. Даследавалі ў 1987—88 Вяргей і А. В. Іоў. Культурны пласт 0,3—1,2 м. Выяўлены рэшткі 2 наземных жытлаў канца 1-га тысячагоддзя н. э. з каменнымі печамі і вялікімі падпечнымі ямамі. Рэчавыя знаходкі адпавядаюць знаходкам на гарадзішчы, за выключэннем посуду паморскай культуры (4—3 ст. да н. э.) і некалькіх больш позніх тыпаў раннеганчарнай керамікі 11 ст.

*Літ.:* Вергей В. С. Раскопки в д. Городище // Археологические открытия 1983 года. М., 1985; Я е ж. Раскопки у д. Городище Пинского района // Археологические открытия 1986 года. М., 1988. *В. С. Вяргей*

**ГАРАДЗІ́ШЧА,** гарадскі пасёлак у Баранавіцкім раёне, на р. Сэрвач. За 20 км на Пн ад Баранавіч, 25 км ад чыг. ст. Баранавічы-Палескія на лініі Брэст — Мінск, на аўтадарозе Баранавічы — Навагрудак. 2520 жыхароў, 930 двароў (1993).

У сярэдзіне 13 ст. Г. ўваходзіла ў склад ВКЛ. З 2-й пал. 15 ст. вядома як велікакняжацкі двор. У 1494 Ян Кежгайлавіч заснаваў тут касцел. На мяжы

Бронзавыя вырабы з селішча Гарадзішча (Пінскі р-н).

15—16 ст. Г.— уладанне князя Сямёна Бельскага. З 1501 належала вял. кн. Алене Іванаўне. На працягу 16 ст. уладальнікамі Г. былі Нямiравічы, Давойнавічы, Карыцкія, Гастомскія, Хадкевіч. У 1640 Каменскія паставілі тут мураваны касцёл. У канцы 17 ст. Г.— уласнасць Зяновіча. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай з 1793 мястэчка ў складзе Расіі, з 1795 цэнтр воласці Навагрудскага пав. Мінскай губ. У 1798 у Г. уніяцкая царква, касцёл, якія з 1839 і 1864 сталі праваслаўнымі цэрквамі. Да 1831 належала графу Людвіку Пацу, з 1833 уласнасць Бухавецкіх. У 1893 у мястэчку 747 жыхароў, 2 царквы, сінагога, 5 яўрэйскіх малітоўных дамоў, сельскае вучылішча, багадзельня, цагельня, 12 крам, 2 кірмашы штогод. Разбурана ў 1-ю сусв. вайну. З 1921 у складзе Польшчы, мястэчка Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв. У сярэдзіне 1930-х гадоў каля 4 тыс. жыхароў, гмінная ўправа, школа, аптэка. З 1939 Г. ў складзе БССР, з 15.1.1940 гарадскі пасёлак, цэнтр *Гарадзішчанскага раёна*. У Вял. Айч. вайну з 24.6.1941 акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі ў Г. больш за 4000 чалавек. Вызвалена 8.7.1944 часцямі 3-й арміі 1-га Бел. фронту ў час наступлення на баранавіцка-слонімскім напрамку. З 8.1.1954 у Брэсцкай вобл. З 25.12.1962 у Баранавіцкім р-не. У 1989 у Г. 28 881 жыхар. Працуюць маслазавод, хлеба пякарня, дарожна-эксплуатацыйны ўчас так, перасоўная механізаваная калона міжшкольны вытворчы камбінат, камбінат быт. абслугоўвання, бальніца, адз сувязі, амбулаторыя, аптэка, 10 магазінаў. У Г. сярэдняя школа-інтэрнат 2 бібліятэкі, Дом культуры, Дом дзіцячай і юнацкай творчасці, музычная і дзіцяча-юнацкая спартыўная школы Брацкая магіла сав. воінаў і партызан што загінулі ў Вял. Айч. вайну. Помнікі архітэктуры 18 ст.— касцёл і Крыжаўзвіжанская царква; археалогіі — *Гарадзішча*. *І. П. Крэнь, В. С. Шаблюк*

**ГАРАДЗІ́ШЧАНСКІ РАЁН.** Існаваў у 1940—62 у Баранавіцкай вобл. Утвораны 15.1.1940. Цэнтр раёна — г. п. *Гарадзішча*. Пл. 800 км$^2$, 135 нас. пунктаў (на 1.1.1947). 12.10.1940 падзелены на 18 сельсаветаў: Вольнаўскі, Галынкаўскі, Гарадзішчанскі, Гірмантаўскі, Душкавецкі, Застарынскі, Ішкалдзеўскі, Крошынскі, Круплянскі, Маўчадскі, Мядзеневіцкі, Падлясейскі, Падстарынскі, Паланэчкаўскі, Пачапаўскі, Скробаўскі, Стайкаўскі, Сталовіцкі. З 8.1.1954 раён у складзе *Брэсцкай вобласці*. 16.7.1954 Застарынскі, Ішкалдзеўскі, Круплянскі, Падстарынскі, Стайкаўскі сельсаветы скасаваны; Гарадзішчанскі і Скробаўскі перайменаваны адпаведна ў Велікасельскі і Карчоўскі сельсаветы. 14.4.1960 Галынкаўскі сельсавет перайменаваны ў Савіцкі, Паланэчкаўскі скасаваны, яго тэрыторыя далучана да Савіцкага сельсавета. 25.12.1962 Г. р. скасаваны, яго тэрыторыя далучана да *Баранавіцкага раёна*.

*Літ.:* Административно-территориальное устройство БССР: Справ. Т. 1—2. Мн., 1985—87. *М. І. Камінскі*

**ГАРАДНА́Я,** вёска, цэнтр сельсавета Столінскага р-на. За 28 км на З ад Століна, 21 км ад чыг. ст. Гарынь. 1587 жыхароў, 522 двары (1993).

Упамінаецца ў гіст. дакументах пад 1448. У антыфеадальную вайну 1648—51 спалена татарамі, якія захапілі ў палон 700 жыхароў мястэчка. У 1670—1772 (паводле іншых крыніц з 1579) мела магдэбургскае права і герб (пацверджаны ў 1792): на сярэбраным полі выява лася з залатымі рагамі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай з 1793 у складзе Расійскай імперыі ў Пінскім пав. Мінскай губ. У 1803 сяляне Г. дамагліся вызвалення ад прыгоннай залежнасці і пераведзены ў разрад дзяржаўных сялян. У 1909 у Г. 1830 двароў, 6728 жыхароў. З 1921 у складзе Польшчы, у Столінскім пав. Палескага ваяводства. З 1939 у БССР, з 12.10.1940 цэнтр сельсавета Столінскага р-на. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 да ліп. 1944 акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена войскамі 61-й арміі 1-га Бел. фронту ў ходзе наступлення на барана-

Да арт. Гарадная. Гараднянская кераміка.

віцка-брэсцкім напрамку. У 1970 у Г. 1965 жыхароў, 470 двароў. Уваходзіць у склад калгаса «Зара». Сярэдняя школа, бібліятэка, Дом культуры, бальніца, паліклініка, аддзяленне сувязі, 4 магазіны Брацкая магіла сав. воінаў, магіла ахвяр фашызму, якія загінулі ў Вял Айч вайну. *Помнік архітэктуры. Троіцкая* царква 18 ст. За 2 км на ПнУ ад вескі гарадзішча і паселішча.

Г вядома з 15 ст. як цэнтр ганчарнай вытворчасці. У 19 — пач. 20 ст ў весцы ганчарствам займалася каля 200 сем'яў у 1920 — 30-я гады — каля 500 сем'яў, якія забяспечвалі ганчарнымі вырабамі амаль усе цэнтр. і ўсх. Палессе Выраблялі кераміку белагліняную, непаліваную, аздобленую хвалямі і рыскамі нанесенымі ў 2—3 рады на верхнюю частку вырабу. Рабілі гаршкі, гладышы, глякі, збанкі, кубкі, міскі, цэрлы і інш. Былі таксама пашыраны цацкі, дробная пластыка, якая вызначалася гумарыстычным характарам музыкі, ганчар ці каваль за работай, валы у запрэжцы і інш.

**ГАРАДНІ́ЧЫ**, 1) начальнік замка (горада) на Беларусі ў 15—18 ст. Прызначаўся ўрадам з мясц. шляхты. Наглядаў за будаўніцтвам і рамонтам абарончых збудаванняў, забеспячэннем замка зброяй боепрыпасамі, харчамі. Пры адсутнасці кашталяна або старосты ўзначальваў гарнізон замка, засядаў у замкавым (гродскім) судзе. 2) Прадстаўнік мясцовай адміністрацыі ў Маскоўскай дзяржаве, пазней — у Расійскай імперыі. З 1775 узначальваў адм.-паліцэйскую выканаўчую ўладу ў пав горадзе. У 19 ст. Г прызначалі гал. чынам адстаўных чыноўнікаў, пераважна афіцэраў, звольненых з ваен. службы з-за ранення. У 1862 пасада Г. скасавана.

**ГАРАДНІ́ЧЫ** Антон Якаўлевіч [каля 1848, мяст. Касцяневічы Вілейскага пав Віленскай губ (цяпер Вілейскі р н) — не раней 1917], удзельнік рэв. руху ў Расіі. З 1871 працаваў на заводах Пецярбурга, дзе вёў рэв прапаганду Чл «Паўночнага саюза рускіх рабочых». У сак. 1874 арыштаваны. З 1876 жыў у Пецярбургу пад тайным наглядам паліцыі У маі 1879 зноў арыштаваны, сасланы на радзіму. З кастр. 1879 за «шкоднае ўздзеянне» высланы ў г. Мезень Архангельскай губ Пасля ад паліт дзейнасці адышоў.

**ГАРАДО́К**, горад, цэнтр Гарадоцкага р на, на р Гаражанка. За 39 км на Пн ад Віцебска, 2 км ад чыг. ст. Гарадок, на аўтамаб. дарозе Віцебск — Невель. 14 6 тыс. жыхароў (1992).

Узнік на месцы стараж. ўмацаванага паселішча (зберагліся рэшткі гарадзішча) У летапісах 2-й пал. 13 ст упамінаецца «Гарадок каля Полацка» ў сувязі з бітвай паміж палачанамі і літоўскімі войскамі пад кіраўніцтвам Мінгайлы, у выніку якой Г. быў знішчаны. Паводле пісьмовых крыніц, у канцы 16 ст. ў Г. пабудаваны замак, які меў магутныя абарончыя валы з 5 драўлянымі вежамі. На карце С. Пахалавіцкага (1579) паказаны Вял. і Мал. Г. На карце Т. Макоўскага (1613) адзначаны як мястэчка Віцебскага ваяв. ВКЛ. Быў дзярж. маемасцю. У 1650 упамінаецца Ільінская царква, пераўтвораная ва уніяцкую, яна ў тым годзе была вернута праваслаўным. Паводле некаторых звестак, меў герб — выява льва на залатым полі. У 1772 Г далучаны да Расійскай імперыі ў складзе Пскоўскай губ. З 1777 цэнтр Гарадоцкага пав., атрымаў статус горада, у 1781 атрымаў новы герб з выявай «Пагоні», як і інш павятовыя цэнтры Полацкага намесніцтва. У канцы 18 ст. 169 дамоў, у 1860 — 377, з іх 4 мураваныя, 4075 жыхароў; царква, 6 яўр. малітоўных школ, ф-ка паташу, 19 дробных саматужных прадпрыемстваў, 75 крам. У 1887—23 прамысл. і рамесныя прадпрыемствы, бальніца (утрымлівалася на сродкі сялян), 3 урачы, царкоўнапрыходскае вучылішча, рамесная школа. У 1897 у Г. 5023 жыхары (з іх 39,5 % пісьменных). У 1905—6480 жыхароў (2184 праваслаўныя, 4205 іудзеяў, 57 старавераў, 29 католікаў, 5 пратэстантаў), 21 мураваны і 834 драўляныя дамы, 2 царквы, 10 сінагог; 14 з-даў, фабрыка, паравы млын, 2 мужчынскія *і 3 жаночыя вучылішчы, бальніца на* 15 ложкаў, аптэка і 3 аптэкарскія магазіны, бібліятэка на 109 абанентаў. 8(21).11 1917 устаноўлена сав. ўлада. З 17.7.1924 цэнтр Гарадоцкага р-на. У 1939 было 7,3 тыс. жыхароў. У Вял. Айч вайну з 10.7 1941 акупіраваны ням.-фаш захопнікамі. За час акупацыі Г амаль поўнасцю разбураны, у горадзе і раене захопнікі знішчылі 5084 чал., у т л ў створаным імі лагеры смерці 2,5 тыс. чал. Вызвалены 24.12.1943 войскамі 1-га Прыбалтыйскага фронту ў выніку *Гарадоцкай аперацыі 1943*. У 1959—7,6 тыс жыхароў, у 1969 — 9 тыс. Працуюць ільнозавод, рамонтны, малочны з-ды, хлебазавод, харчовы камбінат, птушкафабрыка, філіялы віцебскіх вытв. аб'яднанняў «Хімпласт» і «Будаўнік», камбінат быт. абслугоўвання, раеннае аб'яднанне аграпрамтэхнікі, лясгас і інш. Саўгас-тэхнікум, сярэдняе прафес -тэхн. вучылішча механізацыі меліярацыйных работ, 2 сярэднія, васьмігадовая, дзіцяча-юнацкая спарт., муз. і мастацтваў школы, 7 дашкольных устаноў, Дом піянераў і школьнікаў, Дом культуры, 2 бібліятэкі, кінатэатр, краязнаўчы музей, бальніца Выдаецца газ. «Гарадоцкі веснік». У горадзе захаваліся помнікі грамадз. архітэктуры мяжы 19—20 ст.— жылыя дамы. Помнікі ў гонар воінаў-вызваліцеляў, сав. танкістам, Вызвалення; вайсковыя могілкі, дзе пахаваны Героі Сав Саюза А. І. *Дыдышка*, П. П. Зюбін, В. А. Талкачоў, ген.-маер М М. Каржанеўскі; магілы ахвяр фашызму. У межах горада курганны могільнік і селішча эпохі Кіеўскай Русі. *В Л Насевіч*

Герб Гараднoй. 1792

Герб Гарадка. 16 ст

**ГАРАДО́К**, веска ў Глускім р-не. За 17 км на Пн ад Глуска, 36 км ад чыг. ст. Старыя Дарогі. 122 жыхары, 77 двароў (1993).

У канцы 16 — пач 19 ст. называўся Гарадок Глуск-Пагарэлы, што ўзнік, верагодна, у 12—13 ст. каля зліцця р. Краснай з р. Пціччу і называўся Глуск, а пазней размясціўся на тэр. сучаснай вескі Г. У крыніцах упамінаецца з 2-й пал. 15 ст. ў кантэксце, які сведчыць пра больш раннее яго існаванне. *Глускай воласцю* ў гэты час валодалі Юрый і Глеб — сыны памершага ў 1433 князя Сямена Іванавіча Гальшанскага. Саўладальнікамі Глуска былі Сямен Сяменавіч Гальшанскі-Трабскі, доля якога ў выніку шлюбу яго адзінай дачкі з Марцінам Гаштольдам перайшла ў 1483 да іх сына Альбрэхта, і ўдава чацвертага брата, Андрэя, якая падаравала сваю долю таксама А. Гаштольду. Другая частка уладанняў засталася ў сыноў Юрыя Сяменавіча — князеў Сямена і Івана Гальшанскіх. Пасля смерці Сямена (1505) яго доля перайшла да мужа яго дачкі Таццяны Канстанціна Іванавіча Астрожскага.

Сын Івана Юрый Гальшанскі-Дубровіцкі заснаваў (1-я пал. 16 ст.) у сваей частцы Глускай воласці новыя *Глускі замак* і мястэчка, якія пазней атрымалі назву Глуск-Дубровіцкі (сучасны г. п. Глуск). Стары Глуск застаўся ў Гаштольдаў, князёў Астрожскіх і другога сына Івана Гальшанскага — Аляксандра. Пасля смерці сына Альбрэхта Гаштольда (памёр без нашчадкаў у 1542) і сына князя Аляксандра віленскага біскупа Паўла Гальшанскага (памёр у 1555) іх долі ў Глуску і воласці адышлі вял. князю літ. Жыгімонту Аўгусту. У якасці дзярж. воласці Глуск упамінаўся ў 1557, але хутка быў нанова падараваны Ераніму Аляксандравічу Хадкевічу, яго сын Ян, верагодна, прадаў сваю частку Глуска князю Юрыю Юр'евічу Алелькавічу-Слуцкаму і яго жонцы Кацярыне Тэнчынскай, пазней яна перайшла да іх сыноў Доля князя К. І. Астрожскага адышла яго сыну Ілы, а пасля яго смерці ўдаве Беаце Касцялецкай, яна паўторна выйшла замуж за Альбрэхта Ласкага, які ў 1569 здаў сваю частку Глускага замка ў заклад ляхавіцкаму дзяржаўцу Уладзіміру Забалоцкаму Хутка з-за ўмоў закладу паміж імі ўзнік канфлікт, у 1570 Забалоцкі спаліў замак, пасля чаго Глуск у дакументах пачаў звацца Глускам-Пагарэлым або Гарадком Глускам-Пагарэлым, прычым гэта назва адносілася і да той часткі, што належала князям слуцкім Частка Г. пасля Забалоцкага перайшла ў заклад да князя Аляксандра Палубінскага, які выступаў у якасці закладатрымальніка з 1580. Спадчыннае права ўласнасці на гэты маентак пасля смерці Беаты Касцялецкай перайшло да брата Ілы — князя Канстанціна Астрожскага, а пасля шлюбу з яго дачкой Альжбетай (1593) гэта права атрымаў Крыштоф Радзівіл Пярун. У 1597 ён выкупіў у Палубінскага замак і мястэчка Глуск-Пагарэлы з 96 дамамі, 2 цэрквамі, 2 фальваркамі і 16 навакольнымі вёскамі (больш за 300 сял. дымоў). У 1585 Барташ Бруханскі набыў у князя Аляксандра Юр'евіча Слуцкага яго долю ў Глуску-Пагарэлым з 11 вёскамі, пры гэтым два браты Аляксандра Юрый і Сямен, напэўна, захавалі долю ў маентку. Пасля шлюбу Соф'і Юр'еўны Слуцкай з сынам Крыштофа Радзівіла Янам у 1600 гэта доля аб'ядналася з колішнім уладаннем князёў Астрожскіх і была далучана да Слуцкай латыфундыі Радзівілаў.

Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай у 1793 у Расійскай імперыі, у 1814 у Г пабудавана драўляная Казьмадзям'янаўская царква. У мястэчку, што размяшчалася побач, у 1846 было 30 двароў, у аднайменнай вёсцы ў 1847 — 148 жыхароў, 24 двары, уваходзілі ў маентак Дварэц Бабруйскага пав, належалі памешчыку. У 1861 у мястэчку было 314 жыхароў, у 1866 пабудавана другая драўляная царква. У 1897 у мястэчку 342 жыхары, 48 двароў, вадзяны млын, пастаялы двор, 3 крамы, у вёсцы — 337 жыхароў, 52 двары, хлебазапасны магазін, крама, царква, у маентку, які знаходзіўся побач, быў 1 двор і 6 жыхароў. У 1917 у мястэчку 473 жыхары, 66 двароў, у вёсцы 466 жыхароў, 99 двароў, у маентку 4 жыхары, 1 двор, уваходзілі ў Гарадоцкую воласць Бабруйскага пав. Мінскай губ. сав. ўлада ўстаноўлена ў ліст. 1917, у лют.— ліст. 1918 акупіравана германскімі, у жн. 1919 — ліп. 1920 польскімі войскамі У студз. 1918 у Г. быў сфарміраваны партыз. атрад у які ўвайшло каля 70 вяскоўцаў. У 1922 у вёсцы адкрыта хатачытальня, у 1923 — бальніца. З 20.8.1924 цэнтр сельсавета Глускага р-на. У 1926 вёска (459 жыхароў, 75 двароў) і мястэчка (456 жыхароў, 66 двароў), пазней яны зліліся У 1930 арганізаваны калгас «Камуніст». У канцы чэрвеня 1941 акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў 1942—43 загубілі 89 жыхароў. Вызвалена 26.6.1944 войскамі 1-га Бел. фронту. З 24.6.1960 у складзе Завалочыцкага сельсавета. У складзе саўгаса «Завалочыцы». Г.— стараж. цэнтр ганчарства у 1930 — 80-я гады тут існавала ганчарная арцель. Магазін, аддз. сувязі фельчарска-акушэрскі пункт, бібліятэка Помнік аднавяскоўцам, якія загінулі у Вял. Айч. вайну Помнік нар. драўлянага дойлідства — Казьмадзям'янаўская царква. У Г. нарадзіўся бел. вучоны ў галіне меліярацыі, д-р тэхнічных навук, засл дзеяч навукі БССР В. М. Зубец

*Літ* Описание документов архива западнорусских униатских митрополитов Спб, 1897 Т 1, № 42 С 156—158 207, 211, Сборник имп Русского исторического общества Спб 1892 Т 71 С 806—807, Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси Вильна 1867 Т 1 № 66 W o l f f J Kniaziowie litewsko-ruscy od konca czternastego wieku Warszawa, 1895 S 97—100, 103—104

*В Л Насевіч, Т Р Чуракова*

**ГАРАДО́К**, археалагічныя помнікі каля в Гарадок Жлобінскага р-на

С т а я н к а-1 эпохі *неаліту* і *бронзавага веку* За 500 м на ПдУ ад вёскі на 1-й надпоплаўнай тэрасе левага берага р Бярэзіна. Плошча 1100 м² Выявіў і абследаваў у 1977 У. П. Ксяндзоў Знойдзены фрагменты ляпной керамікі крамянёвыя прылады працы (свярдзёлак з адшчэпу, трохвугольны наканечнік стралы, праколка з пласціны, нож, скоблі скрабкі, нуклеусы, рэтушоры, адшчэпы і пласціны); фрагменты ляпной керамікі

С т а я н к а-2 бронзавага веку За 1,2 км на Пд ад вёскі, на дзюнавым пагорку ў пойме левага берага р Бярэзіна. Выявіў і даследаваў у 1977 Ксяндзоў. Культурны пласт 0,15 м. Знойдзены крамянёвыя прылады (скрабок, наканечнік стралы з тронкамі, нож з адшчэпу трапецыя, адшчэпы, пласціны), фрагменты керамікі.

С т а я н к а-3 *сосніцкай культуры* За 1,5 км на ПдЗ ад вёскі, на першай надпоплаўнай тэрасе левага берага р Бярэзіна. Выявіў і даследаваў у 1977 Ксяндзоў. Знойдзены крамянёвыя прылады працы, фрагменты ляпной арнаментаванай керамікі.

С т а я н к а-4 *днепра-дзяснінскай культуры* (6-е тысячагоддзе да н. э) і *днепра данецкай культуры* За 3 км на ПдЗ ад вёскі, у нізоўях р. Бярэзіна Плошча 1400 м². Адкрыў і даследаваў у 1977 Ксяндзоў. У мезалітычным культ пласце выяўлены рэшткі агнішча і гаспі ям, крамянёвыя прылады працы (наканечнікі стрэл, канцавыя скрабкі, разцы праколкі, вастрыі, трапецыі, пласціны укладышы, скоблі, нажы і інш.), у неалітычным — рэшткі трох круглых агнішчаў, крамянёвыя прылады працы (скрабкі, наканечнікі стрэл, пласціны, адшчэпы, нуклеусы), фрагменты ляпной керамікі.

Г а р а д з і ш ч а *мілаградскай культуры* За 250 м на ПнУ ад вёскі, на левым беразе безназоўнага прытока р. Бярэзіна. Выявіў у 1977 Ксяндзоў даследавала Н М. Дубіцкая. Культурны пласт каля 0,7 м. Знойдзены фрагменты керамічных пасудзін.

С е л і ш ч а ранняга *жалезнага веку* За 500 м на ПдЗ ад могілак, на

беразе р Бярэзіна. Плошча 400 м$^2$. Выявіў і абследаваў у 1977 Ксяндзоў. Культурны пласт 0,2 м. Знойзены рэшткі грубаляпной таўстасценнай керамікі, фрагменты рэчаў з жалеза першых стагоддзяў н. э.

*Літ* Ксяндзоў У П Новыя помнікі позняга мезаліту ўсходняй Беларусі // Весці АН БССР Сер грамад навук 1979 № 6 Яго ж Палеолит и мезолит Белорусского Поднепровья Мн, 1988

*У П Ксяндзоў*

**ГАРАДО́К**, археалагічныя помнікі каля в Гарадок Маладзечанскага р-на.

Гарадзішча ранняга жал. веку і сярэднявечча. У паўн. частцы вескі, паблізу левага берага р. Бярэзіна Пляцоўка авальная, памер 60 × 40 м. Абкружана ровам шырыней 25—30 м, за якім тэраса шырыней да 10—12 м, за ей — вал вышыней да 10 м, на якім захавалася пляцоўка дыяметрам 7 м, дзе, магчыма, стаяла абарончая вежа. Мост цераз роў знаходзіўся на Пд. Даследавалі ў 1966 Я. Г. Звяруга, у 1973 М А. Ткачоў, у 1989 Г. М Сагановіч. Ніжні культурны пласт на глыбіні 1,5 м На З пляцоўкі выяўлена праслойка пажарышча з abломкамі керамікі і каваламкамі жал. шлаку Знойдзена штрыхаваная кераміка. Верхні культурны пласт 0,3—0,4 м Знойдзена кераміка 16—17 ст. і вял. колькасць фрагментаў паліхромнай (зяленая, фіялетавая, жоўтая, блакітная, белая) і аднаколернай зяленай кафлі, арнаментаванай традыцыйным раслінным ці геаметрычным малюнкам, узорам з гербам «Ружа», сцэнамі паляванння, казачнымі сюжэтамі, выявамі чалавека, амура, цмока і інш

Селішча. Прымыкае да гарадзішча з ПдЗ і З (паміж гарадзішчам і селішчам есць паніжаны, часткова забалочаны ўчастак шырыней 20—40 м) Выявіў і абследаваў у 1985 Звяруга. Культурны пласт 0,4—0,5 м. Знойдзены адзінкавыя фрагменты посуду эпохі Кіеўскай Русі, кераміка 14—17 ст, кавалкі жал. шлаку, абпаленыя камяні.

*Літ* Ткачоў М А Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII—XVIII стст Мн, 1978, Зверуго Я Г Верхнее Понеманье в IX—XIII вв Мн, 1989

*Я Г Звяруга, Г М Сагановіч*

**ГАРАДО́К ДАВЫ́ДАЎ**, гл *Давыд-Гарадок*

**ГАРАДО́ЦКАЯ АПЕРА́ЦЫЯ 1943**, наступальная аперацыя войск правага крыла 1-га *Прыбалтыйскага фронту (ген арміі І Х. Баграмян)* у Вял Айч вайну у раене г. Гарадок Віцебскай вобл. 13—31 12 1943.

У аперацыі ўдзельнічалі 11-я гвардз. (ген-лейт. К М *Галіцкі*), часці 4-й ударнай (ген.-лейт. В І. Швяцоў), 43-й (ген-лейт. К. Дз *Голубеў*), 3-й паветр. (ген-лейт М П. *Папівін*) армій, 1-ы, 5-ы танкавыя і 3-і гв кав. карпусы Планавалася сустрэчнымі ўдарамі 11-й гв і 4-й ударнай армій у напрамку ст. Бычыха разграміць гарадоцкую групоўку праціўніка, ліквідаваць плацдарм ворага, і зв Гарадоцкі выступ, авалодаць Гарадком і наступаць у напрамку Віцебска Гарадоцкі выступ абаранялі ням войскі 3-й танк. арміі групы армій «Цэнтр» і паўд. крыла 16-й арміі групы армій «Поўнач». Каб не дапусціць прарыву фронту і злучэння сав войск з бел. партызанамі, ням. камандаванне перакінула сюды 2 пях. дывізіі з-пад Ленінграда, 5 пях. і 1 танк дывізіі з паўд. крыла групы армій «Цэнтр». 13 снеж. сав. 11-я гв. і 4-я ўдарная арміі пры падтрымцы танкаў і артылерыі пачалі штурм варожых пазіцый. Войскі 4-й ударнай арміі прарвалі гал. паласу абароны праціўніка. У паласе наступлення 11-й гв. арміі, якая наносіла гал ўдар, праціўнік аказаў упартае супраціўленне, і толькі нязначныя сілы здолелі ўклініцца ў яго абарону. 14 снеж. на правым флангу 11-й гв. арміі ўведзены ў бітву 1-ы танк. корпус і 83-я гв. стралк дывізія. 16 снеж. 1-ы танк. корпус выйшаў у раен ст Бычыха, дзе злучыўся з 5-м танк. корпусам 4-й ударнай арміі. Да 20 снеж. вызвалена больш за 500 населеных пунктаў. 24 снеж. войскі 11-й гв. арміі авалодалі Гарадком. У выніку Г. а. войскі фронту прасунуліся на 60 км, разграмілі 6 пях. і 1 танк. дывізіі праціўніка, ліквідавалі Гарадоцкі выступ, перарэзалі чыгункі Полацк — Віцебск Былі створаны ўмовы для наступлення ў раене Віцебска. 12 часцям і злучэнням, якія вызначыліся ў аперацыі, нададзены ганаровыя найменні «Гарадоцкіх».

*Літ* Свердлов Ф Подготовка и ведение Городокской операции // Воен-ист журн 1976 № 3

*К М Галіцкі*

**ГАРАДО́ЦКІ ПАВЕ́Т.** Існаваў на Беларусі з канца 18 ст да 1923 Створаны пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) Уваходзіў з 1776 у склад Полацкай губ., з 1796 — Беларускай губ, з 1802 — Віцебскай губ Пл. павета 3107,3 кв вярсты, нас 112 033 чал., з іх 11,2 % пісьменныя (1897). Цэнтр павета — г Гарадок. Падзяляўся на 21 воласць (1897): Балецкая, Бяскатаўская, Вайханская, Віраўлянская, Вышадская Вярэцкая, Горкаўская, Дубакрайская, Дубінінская, Зайкаўская, Казьянская, Мішнеўцкая, Обальская, Паташнянская, Руднянская, Селішчанская, Стайкаўская, Старынская, Уладзімірская, Халамерская і Цесцінская. У складзе павета было мяст. Езярышча У студз.— лют 1919 павет у складзе Беларускай ССР, пасля ў складзе Віцебскай губ адышоў да РСФСР. 11.3.1919 Дубінінская вол перададзена Невельскаму пав Віцебскай губ. У жн.— вер. 1920 скасавана Вярэцкая вол. Горад Гарадок, Балецкая, Бяскатаўская, Вайханская, Віраўлянская, Вышадская, Мішнеўцкая, Паташнянская і Селішчанская вол. перададзены Віцебскаму пав. 15.2 1923 павет скасаваны Казьянская і Уладзімірская вол адышлі да Полацкага пав., Горкаўская, Дубакрайская, Обальская, Руднянская, Старынская, Стайкаўская і Халамерская вол — да Невельскага пав., Зайкаўская і Цесцінская вол — да Веліжскага пав. Віцебскай губ

*М І Камінскі*

**ГАРАДО́ЦКІ РАЁН.** Размешчаны на ПнУ Віцебскай вобл. Пл. 3,1 тыс. км$^2$, нас. 22,9 тыс. чал. (1992). Цэнтр — г. *Гарадок* Тэр. раена знаходзіцца ў межах Гарадоцкага ўзвышша Працякаюць рэкі Обаль з прытокамі Чарнуйка, Чарняўка і Усыса; Аўсянка, Лужаснянка, Ловаць 56 азер маюць рыбапрамысл значэнне, найб Езярышча, Лосвіда, Вымна Пад лясамі каля 44 % тэр. раена Праходзяць чыгунка Віцебск — Невель (Расія), аўтадарогі на Віцебск, Шуміліна, Усвяты, Невель.

Раен утвораны 17.7 1924 у Віцебскай акрузе (да 26 7.1930); 20.8.1924 падзелены на 13 сельсаветаў Аляксандраўскі (з 16.7.1954 Прудніцкі), Бяскатаўскі (з 26.3 1973 Стадолішчанскі), Болецкі, Віраўлянскі, Вайханскі (Нававайханскі), Гарадоцкі, Іванаўскі (з 9.10.1929 Пралетарскі), Канчанскі, Кузьмінскі, Маскаляняцкі, Пальмінскі, Паташненскі (з 9. 10.1929 Першамайскі), Селішчанскі

У пач. 1920-х гадоў у раене ўзніклі с-г таварыствы. У 1930 было 27 машынных, малочных, тарфяных, меліярацыйных, ільнаводчых т-ваў, 26 калгасаў У 1932—295 калгасаў (каля 62 % гаспадарак). У 1927 у раене 55 школ. Напярэдадні Вял Айч вайны ў раене былі 4 лесапільныя, цагельны, ганчарны, 3 смалакурныя з-ды, 4 масла-, 2 ільнозаводы, він завод, 7 млыноў; 2 бандарныя, 2 шавецкія, 2 кравецкія, трыкатажная і кавальска-слясарная майстэрні (занята 3,6 тыс. чал.); 3 МТС, якія мелі 107 трактароў, 19 камбайнаў і інш. тэхніку; 105 калгасаў, 76 школ (49 пачатковых, 27 сярэдніх і няпоўных сярэдніх), 4 бальніцы, 8 фельчарска-акушэрскіх пунктаў, 2 стацыянарныя, 14 перасоўных кінаўстановак, 36 гандлевых пунктаў З 20 2.1938 Г. р. у Віцебскай вобл.

У Вял Айч вайну з сярэдзіны ліп 1941 Г р. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі тут больш за 5 тыс. грамадзян. Разам з жыхарамі знішчаны вёскі Ахрамеева, Вусце, Гумнічына, Задобрыя, Казлы, Лапакова, Падранда, Петрачыха, Рудзіха, Сяменава, Чытавухі, Янава (пасля вайны не адрадзіліся), а таксама Азеркі (Прудніцкі сельсавет), Азеркі (Хмяльніцкі сельсавет), Баркова, Бібіна, Валадарка, Воранава, Дарахі, Задрачча, Ляхаўка, Мар'ямполь, Сінякі, Слабада, Шаламова. На тэр. раена дзейнічалі падп. райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ, партыз. брыгады 1-я Беларуская, 1-я Віцебская, 2-я Беларуская імя Панамарэнкі, 4-я Беларуская, Багушэўская, «За Савецкую Беларусь», імя Кутузава, імя Леніна, імя Чырванасцяжнага Ленінскага камсамола, асобныя атрады Толькі ў 1942 партызаны 2-й Бел. партыз. брыгады імя Панамарэнкі разграмілі ням.-фаш. гарнізоны ў в. Смолаўка і на чыг ст. Бычыха. Актыўная дзейнасць партызан на тэр. раена выклікала шматлікія карныя аперацыі гітлераўцаў, буйнейшыя з якіх — *«Зімовы лес», «Шаравая маланка»,* «Майская навальніца». Раен вызвалены ў канцы снеж. 1943 войскамі 11-й гв арміі 1-га Прыбалтыйскага фронту ў ходзе *Гарадоцкай аперацыі 1943* У 1-й пал. 1944 штаб 1-га Прыбалтыйскага фронту дыслацыраваўся ў в. Сурміно.

На 1 1.1992 у раене г. п. *Езярышча,* 384 сельскія нас. пункты, 18 сельсаветаў Бычыхінскі, Вайханскі, Віраўлянскі, Вярэцкі, Газьбенскі, Гуркінскі, Даўгапольскі, Зайкаўскі, Марчанскі, Мяжанскі, Пальмінскі, Першамайскі, Пралетарскі, Прудніцкі, Руднянскі, Стадолішчанскі, Халамерскі, Хмяльніцкі 18 калгасаў, 14 саўгасаў, якія спецыялізуюцца на малочна-мясной жывелагадоўлі, ільнаводстве, пашыраны пасевы збожжавых культур і бульбы Дзейнічаюць прадпрыемствы буд. матэрыялаў, легкай, харч. і паліўнай прам-сці У раене 13 сярэдніх, 13 няпоўных сярэдніх 7 пачатковых школ, 36 дашкольных устаноў, 37 клубаў і сельскіх Дамоў культуры, 45 бібліятэк, 43 кінаўстаноўкі 7 бальніц, 29 фельчарска-акушэрскіх пунктаў. Выдаецца раенная газ «Гарадоцкі веснік». Працуе *Гарадоцкі раенны краязнаўчы музей*

Найб значныя археал помнікі каля в. Бяскатава, Вышадкі, *Дарахі*, Казінава Лялеўшчына, Мяжа, Новы Болецк, Хабаты і інш. Зімой 1797 у в. Загараны адбылося буйное выступленне сялян супраць прыгоннага права (удзельнічала больш за 600 чал.). На тэр. раена вайсковыя могілкі ў в Вял. Станкі Верамеева, Віраўля, Вышадкі, Гуркі Дуброўкі, Кабішча, Кавалі, Ключ, Лугоўскія, Макаляняты, Мехавое, Новы Болецк, Новыя Вайханы, Пруднікі, Прудок Селішча, Хвошна; брацкія магілы сав воінаў і партызан у в. Альхавец, Бяскатава, Евіна, Канчаны, Кузьміно, Малашанкі, Марозава, Мяжа, Рудня, Халамер'е; магілы ахвяр фашызму ў в. Балогніца, Вярэчча, Дарахі, Дуброва (Вярэцкі сальсавет), Зайкава, Зарэчча, Масееўка Нізкія, Прывальні, Селязні, Сінякі, Стаі Сячонка, Улішацы, Фралова, Хартова помнікі ахвярам фашызму ў в. Канашы Ноўка, партызанам у в Дуброва (Стадолішчанскі сельсавет), Кабішча, Казловічы, Лыськава, Ноўка, Халамер'е; помнік сав. воінам у в. Даўгаполле. Помнікі архітэктуры паштовая станцыя 19 ст (в. Кузьміно), драўляны касцел 19 ст на мураваным падмурку 18 ст. (в Рамні) На тэр. раена заказнікі арнітагічны Езярышча і гідралагічны Карыценскі Мох, участкі рэліктавага вадзяного арэха. *С І Садоўская*

ГАРАДОЦКІ РАЁН

**ГАРАДОЦКІ РАЁННЫ КРАЯЗНАЎЧЫ МУЗЕЙ.** Адкрыты 24.12 1976 у г. Гарадок Віцебскай вобл. Пл. экспазіцыі 404 м², у фондах і экспазіц залах больш за 27 тыс. экспанатаў (1993) Тэматычныя раздзелы: археалогіі, гісторыі Гарадоччыны, этнаграфіі Археал экспанаты расказваюць аб працэсе засялення Гарадоччыны, пачынаючы з часоў мезаліту да ранняга феадалізму Экспануюцца матэрыялы даследаванняў археал. помнікаў на тэр. Гарадоцкага р-на (косці маманта, каменныя сякеры зерняцеркі, крамяневыя прылады працы жалезныя замкі, падковы, цвікі, гліняныя цацкі, прасліцы, керамічны посуд, курыльныя люлькі), нумізматычная калекцыя з арабскіх дырхемаў, медных і сярэбраных манет 16—17 ст і інш. Ёсць матэрыялы пра стараж. Гарадок, развіццё капіталіст. адносін на Гарадоччыне ў канцы 19 — пач. 20 ст, падзеі рэв руху, грамадз вайны, аднаўленне нар гаспадаркі. Экспанаты перыяду Вял Айч. вайны — пра абарончыя баі 179-й стралк дывізіі ў 1941, узнікненне і

разгортванне падполля і партыз. руху ў раёне, дакументы аб злачынствах ням.-фаш. акупантаў, аб вызваленні горада і раёна ў ходзе Гарадоцкай аперацыі 1943, матэрыялы пра вайсковыя часці і злучэнні, якія атрымалі ганаровыя найменні «Гарадоцкіх», біяграфічныя звесткі, асабістыя рэчы і дакументы землякоў. Герояў Сав. Саюза М. І. Аверчанкі, М. А. Ананьева, Г. В. Багданава, І. Р. Бумагіна, М. І. Гапяенка, А. Я. Казлова, І. А. Круміня, Ц. Ц. Рамашкіна, А. П. Сабалеўскага, поўных кавалераў ордэна Славы І. В. Дарошчанкі, І. П. Янчанкі і інш. Паказаны пасляваен. перыяд аднаўлення і развіцця гаспадаркі раёна. У экспазіцыі ёсць дакументы пра землякоў, якія сталі ахвярамі сталінскіх рэпрэсій, загінулі ў сав.-фінляндскую вайну, у Афганістане, вызначыліся ў працы і творчасці. У раздзеле этнаграфіі матэрыялы 19 — пач. 20 ст. Традыц. прылады працы, побыту, нар. адзенне, культавыя рэчы прадстаўлены праз паказ асн. нар. свят (Каляды, Вялікдзень, Купалле і інш.). Экспануюцца прадметы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва: кераміка, вырабы ткацтва, з саломкі, лазы, вышыўка, вязанне. Асобная экспазіцыя прысвечана хлебу. *К. Я. Уверская*

**ГАРАДСКА́Я ДУ́МА,** выбарны распарадчы орган гар. самакіравання ў Расійскай імперыі. Засн. паводле *Даравальнай граматы гарадам 1785* на аснове саслоўнага прадстаўніцтва. На Беларусі ўведзены ў 1875 у Віленскай, Віцебскай, Мінскай і Магілёўскай губ. у ходзе *гарадской рэформы 1870-х гадоў*. Члены дум (гласныя) выбіраліся на 4 гады на аснове высокага ўзроставага (25 гадоў) і маёмаснага (наяўнасць нерухомай уласнасці, прамысловых або гандлёвых прадпрыемстваў) цэнзу. Гарадавое палажэнне 11.6.1892 значна павысіла маёмасны цэнз выбаршчыкаў і скараціла склад Г. д. больш чым у 2 разы. Займалася гар. гаспадаркай. Выканаўчы орган Г. д.— *гарадская ўправа* на чале з гар. галавой. Г. д. мелі абмежаваную кампетэнцыю: не валодалі прымусовай уладай, знаходзіліся пад строгім кантролем губернатара і міністра ўнутраных спраў; не атрымлівалі фінансавых сродкаў ад дзяржавы, гал. крыніцай іх даходаў былі падаткі з нерухомай маёмасці гараджан. Нягледзячы на гэта, дзейнасць дум спрыяла развіццю мясцовай ініцыятывы, гаспадаркі і культуры гарадоў; яны адкрывалі на свае сродкі школы, бальніцы, займаліся страхаваннем, утрымлівалі статыстычныя камітэты, якія абследавалі гар. гаспадарку, у 1917 правялі гарадскі перапіс. Пасля Лют. рэвалюцыі 1917 на неакупіраванай тэр. Беларусі Г. д. дэмакратызаваны, летам 1917 адбыліся іх перавыбары на аснове ўсеагульнага, роўнага і прамога выбарчага права. Скасаваны пасля Кастр. рэвалюцыі.

*Літ.:* Пажитнов К. А. Городское и земское самоуправление. Спб., [1913]; Нестеренко Е. И., Осмоловский В. П. Советы Белоруссии, окт. 1917 — янв. 1919 г. Мн., 1989. *А. І. Несцярэнка.*

**ГАРАДСКА́Я МЕДЫЦЫ́НА,** сістэма бясплатнай медыцынскай дапамогі насельніцтву гарадоў за кошт гарадскога бюджэту ў Расійскай імперыі ў 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. Створана ў ходзе *гарадской рэформы 1870-х гадоў*. Рэгламентавалася «Гарадавым палажэннем» 1870 (са зменамі і дапаўненнямі 1892 і 1906). Ахоплівала лячэбныя ўстановы Прыказаў грамадскай апекі, а таксама пабудаваныя прыватнымі асобамі або грамадскімі арганізацыямі з дабрачыннымі мэтамі, з 1903 земскія мед. ўстановы. За сродкаў гарадскога бюджэту фінансавалася таксама будаўніцтва новых лячэбных устаноў. Былі адчынены амбулаторыі ў Мінску (1899) і Гродне (1912), у 1912—13 у Мінску пабудавана бальніца для інфекцыйных хворых, у 1912 у Магілёве пачала дзейнічаць карэта хуткай дапамогі. У 2-й пал. 19 ст. ў бел. гарадах зарадзілася спецыялізаваная мед. дапамога (акушэрска-гінекалагічная, хірургічная, афтальмалагічная, псіхіятрычная, венералагічная, супрацьсухотная), узніклі першыя санітарныя органы: санітарныя камісіі і камітэты. У 1895 у Мінску, у 1897 у Віцебску і Гомелі ўведзена пасада гарадавога ўрача.

*Літ.:* Чертов А. А. Городская медицина в Европейской России. М., 1903; Жбанков Д. Н. Сборник по городскому врачебно-санитарному делу в России. М., 1915; Крючок Г. Р. Очерки истории медицины Белоруссии. Мн., 1976. *Я. М. Цішчанка.*

**ГАРАДСКА́Я РЭ́ФОРМА 1870-х ГАДО́Ў,** рэформа гарадскога кіравання ў Расійскай імперыі, ажыццёўленая паводле Гарадавога палажэння ад 16.6.1870. Напачатку яна ўводзілася толькі ў гарадах карэнных рус. губерняў Еўрап. Расіі і Сібіры. На нац. ускраінах уводзілася з вял. асцярожнасцю. На Беларусі і ў Літве яна пачала дзейнічаць у крас. 1875, у Латвіі і Эстоніі — у сак. 1877, на польскія губерні, Фінляндыю і Сярэднюю Азію зусім не пашыралася. На Беларусі рэформай уводзіўся новы бессаслоўны орган гар. самакіравання — *гарадская дума*. Пры выбарах членаў (гласных) думы права голасу атрымлівалі гараджане з 25-гадовага ўзросту, якія валодалі пэўным маёмасным цэнзам і не мелі запазычанасці па гар. зборах. Выканаўчым органам гар. думы была *гарадская ўправа*. Сістэма выбараў гар. гласных аўтаматычна забяспечвала большасць прадстаўнікам буйнога капіталу. Дасягалася гэта тым, што выбаршчыкаў падзялялі на 3 курыі (сходы): 1-я курыя складалася з найбуйнейшых уладальнікаў маёмасці, якія выплачвалі $^{1}/_{3}$ агульнай сумы падаткаў (такіх людзей у горадзе звычайна налічвалася некалькі дзесяткаў); да 2-й курыі адносіліся ўладальнікі сярэдніх капіталаў ці маёмасці, якія таксама ўносілі $^{1}/_{3}$ агульнай сумы падаткаў (такіх было некалькі соцень); 3-ю курыю складалі дробныя ўладальнікі капіталаў ці маёмасці (іх было ў некалькі разоў больш, чым выбаршчыкаў 1-й і 2-й курый). Кожная курыя выбірала $^{1}/_{3}$ частку ўстаноўленай колькасці гласных. Большасць насельніцтва горада, якое не мела ўстаноўленага маёмаснага цэнзу (чорнарабочыя, рамеснікі, хатняя прыслуга, дробныя служачыя і г. д.), не дапускалася да выбараў. У выніку сярод гласных перавагу атрымлівалі прадстаўнікі буржуазіі і гар. вярхоў. У выбраных паводле закону 1870 гар. думах першага 4-годдзя дваране і духавенства складалі 15 % усіх гласных, у другім 4-годдзі — звыш 18 %, у трэцім — больш за 20 %. Домаўладальнікі мелі да 90 % гар. гласных. Як і *земствы*, органы гар. самакіравання залежалі ад царскай адміністрацыі і з'яўляліся толькі дадатковымі органамі мясц. улад. Рэформа спрыяла ўмацаванню пазіцый буржуазіі ў дзяржаве, садзейнічала паляпшэнню гар. гаспадаркі. Аднак прыгонніцкія перажыткі не давалі магчымасці выкарыстаць рэформу ў поўнай меры.

*Літ.:* Материалы, относящиеся до нового общественного устройства в городах империи (городовое положение 16 июня 1870 г.). Т. 1—3. Спб., 1877; Пичета В. И. Городская реформа 1870 г. // Три века. М., 1913. Т. 6; Шрейдер Г. И. Город и городовое положение 1870 г. // История России в XIX в. Спб., Б. г. Т. 4.
*А. М. Люты.*

**ГАРАДСКА́Я ЎПРА́ВА,** выканаўчы орган *гарадской думы* ў Расійскай імперыі. Складалася з 2—3 асоб, выбраных думай. Узначальваў управу *гарадскі галава* (адначасова быў і старшынёй гар. думы). Члены ўпраў лічыліся на дзярж. службе і атрымлівалі заработную плату, якую таксама ўстанаўлівалі гар. думы з фонду гар. даходаў. Г. ў. займаліся пытаннямі гаспадаркі і добраўпарадкаваннем гарадоў, супрацьпажарнымі мерапрыемствамі, ажыццяўлялі нагляд за развіццём мясц. гандлю і прамысловасці, кіравалі *гарадской медыцынай* і нар. адукацыяй. Яны не валодалі прымусовай уладай, падпарадкоўваліся жорсткай апецы губернатара і міністра ўнутр. спраў, якія маглі накласці вета на любое рашэнне ці пастанову Г. ў. На Беларусі, дзе гар. даходы былі меншыя за расходы, Г. ў. выбіраліся гал. ч. толькі ў губернскіх гарадах. У большасці павятовых гарадоў функцыі Г. ў. выконваў гар. галава. *А. М. Люты.*

**ГАРАДСКІ́ ГАЛАВА́,** службовая асоба ў Расійскай імперыі. Узначальвала *гарадскую думу* і *гарадскую ўправу*. Пасада ўведзена ў 1785. Паводле *гарадской рэформы 1870-х гадоў* Г. г. выбіраўся на 4 гады гар. думай і зацвярджаўся міністрам унутр. спраў (у губернскіх гарадах) або губернатарам. У невялікіх гарадах Г. г. выконваў функцыі гар. управы. Сумяшчэнне пасад Г. г., старшыні гар. управы і старшыні гар. думы абмяжоўвала дзейнасць апошняй і пакідала магчымасць самавольства. З 1892 Г. г. лічыўся чыноўнікам дзярж. службы. Паводле закону ад 16.6.1870 на пасады Г. г. і яго намеснікаў забаранялася выбіраць яўрэяў, што асабліва датычыла бел. губерняў, дзе ў складзе гар. на-

сельніцтва была значная ўдзельная вага яўрэяў *А М Люты*

**ГАРАДСКІ ПАСЁЛАК,** катэгорыя населенага пункта гар. тыпу, у якім не менш за 2 тыс жыхароў і большасць з іх рабочыя, служачыя і члены іх сем'яў На Беларусі ўведзены Указам Прэзідыума Вярх. Савета БССР ад 27. 9.1938 «Аб класіфікацыі населеных пунктаў Беларускай ССР». Пры аднясенні таго ці інш. населенага пункта да Г п. ўлічваецца таксама яго адм. значэнне, наяўнасць прамысл. і камунальна-быт. прадпрыемстваў, сац.-культ. устаноў. Большасць Г. п Беларусі была ўтворана з б. *мястэчак* і некаторыя з буйных сел На 1.7 1993 у Рэспубліцы Беларусь 94 Г п.

Указам 1938 аб'яўлены першыя 52 г п. Асвея, Багушэўск, Беразіно (з 7 3.1968 горад), Бешанковічы, Брагін, Буда-Кашалева (з 31.12 1971 горад), Бягомль, Бялынічы, Глуск, Ельск (з 5.7.1971 горад), Жыткавічы (з 19.11. 1971 горад), Заслаўе (з 14.8.1985 горад), Капаткевічы, Капыль (з 29.4.1984 горад), Карма, Клічаў, Копысь, Краснаполле, Крупкі, Лагойск, Лельчыцы, Лезна, Лоеў, Любань (з 7 3.1968 горад), Ляды (з 10.3.1954 веска), Мар'іна Горка (з 22 7.1955 горад), Нароўля (з 3 11 1971 горад), Негарэлае, Парычы, Плешчаніцы, Прапойск (з 23.5.1945 г. Слаўгарад), Рудзенск, Смалявічы (з 7 3. 1968 горад), Старобін, Стрэшын, Сураж, Талачын (з 22 7 1955 горад), Тураў, Уваравічы, Узда, Ула, Урэчча, Ушачы, Халопенічы, Хойнікі (з 10.11.1967 горад), Хоцімск, Церахоўка, Чачэрск (з 3 11.1971 горад), Чашнікі (з 7.2 1966 горад), Чырвоная Слабада, Шуміліна і Янавічы. Пасля ўз'яднання Зах. Беларусі і ўключэння яе ў склад БССР створаны новыя Г п 4.12.1939 Браслаў (з 12.10.1940 горад), Драгічын (з 10.11 1967 горад) і Шчучын (з 31 8.1962 горад); 15.1.1940 Васілішкі (з 3 8.1954 веска), Відзы, Ганцавічы (з 6.12.1974 горад), Гарадзішча, Дамачова, Дзятлава, Дунілавічы (з 16.7 1954 веска), Жалудок, Зэльва, Іванава (з 11 3.1971 горад), Івянец, Іўе, Камянец (з 24.6.1983 горад), Мір, Радашковічы, Ружаны, Сапоцкін, Свіслач, Скідаль (з 30.1.1974 горад), 1.5 1940 Даўгінава (з 16.7 1954 веска), Друя, Індура (з 29.12.1940 веска) і Тамашоўка (з 10 3.1954 веска), 12.10.1940 Азеры (з 16.12.1955 веска), Альбярцін (з 19.1 1965 у межах г. Слонім), Антопаль, Астрына, Воранава, Гарадзея, Краснае, Куранец (дзве апошнія з 16.7 1954 вескі), Ленін (з 9.1.1952 веска), Любча, Маларыта (з 29.12.1970 горад), Масты (з 22.7.1955 горад), Моталь, Ракаў (дзве апошнія з 16.7.1954 вескі), Шарашова і Шаркоўшчына 11.2 1941 створаны Г. п. Бобр. З 1946 да Г. п. аднесены Арэхаўск (11 7.1946), Вялікая Бераставіца і Коханава (19.2.1947), Васілевічы (29 4 1950, з 19 11.1971 горад), Варапаева (8.6.1950), Жабінка (16.4.1952, з 23 12.1970 горад), Акцябрскі (б. Карпілаўка; 31.8.1954), Целяханы (6.12.1956), Шацілкі (30.12 1956, з 29.7.1961 г Светлагорск), Міеры (7.8. 1957, з 7 1.1972 горад), Езярышча (4 10 1957), Юрацішкі (23.12.1957), Ветрына (21.1.1958), Жодзіна (21.1.1958, з 7.3. 1963 горад), Расоны (14.3 1958), Астравец і Свір (25.4.1958), Карэлічы, Поразава, Радунь і Рось (усе з 30.4. 1958), Казлоўшчына, Крывічы і Падсвілле (усе з 28.6.1958), Азарычы, Камарын, Кіраўск і Мядзель (усе з 17 11. 1959), Лагішын (22.12 1959), Усходні (б. веска Уручча, 17 9.1962), Смілавічы (2.11.1963), Нарач (26.9.1964, курортны паселак), Новалукомль (31 12.1965, з 31.7.1970 горад), Круглае (11.3.1967), Лынтупы (22.8 1967), Бярозаўка і Краснасельскі (з 24.6.1968), Обаль (30.9.1968), Руба (31.7.1970), Сосны (5 10 1982), Фаніпаль (29.4.1984), Сокал (16 2.1988) Пра кожны Г. п. гл асобны артыкул

*М І Камінскі*

**ГАРАДСКІ ЦЭЙХГАУЗ,** гл. ў арт. *Цэйхгауз*

**ГАРАДСКІЯ ВУЧЫЛІШЧЫ,** пачатковыя навуч. ўстановы павышанага тыпу для дзяцей гараджан у Расійскай імперыі, у т. л. на Беларусі, у 1872—1912. Утвораны з павятовых вучылішчаў на аснове Палажэння аб гарадскіх вучылішчах ад 31.5.1872. Падзяляліся на 1-, 2-, 3- і 4-класныя Навучанне 6-гадовае, платнае Утрымліваліся за кошт гарадскіх грамадстваў і на дзярж. сродкі. Праграма, зацверджаная Мін-вам нар. асветы ў 1877, мела рэальны кірунак. Прадметы закон Божы, чытанне і пісьмо, рус. мова, царкоўнаславянскае чытанне, арыфметыка, практычная геаметрыя, геаграфія і гісторыя Расіі з некаторымі звесткамі па ўсеагульнай гісторыі і геаграфіі, звесткі па прыродазнаўчай гісторыі і фізіцы, чарчэнне, маляванне, спевы, гімнастыка, ручная праца (з 1894), рамествы Кіраўніцтвам Віленскай навуч акругі ў праграмы ўносіліся змены уводзілася замежная мова, алгебра, пашыралася выкладанне фізікі, рус. л-ры, узмацнялася маральна-рэліг. выхаванне. Прадметная сістэма выкладання, якая існавала ў павятовых вучылішчах, у Г. в. была заменена класнай, што адмоўна адбівалася на якасці навучання. Пры вучылішчах адкрываліся прафесіянальныя класы, аддзяленні і курсы (педагагічныя, паштова-тэлеграфныя, электратэхнічныя, будаўнічыя, дамаводства, вязання, шыцця і інш.).Ператварэнне павятовых вучылішчаў у гарадскія адбывалася марудна і працягвалася да 1902. Да 1888 на Беларусі адчынена толькі 8 Г. в. для хлопчыкаў. У 1906 было 60 Г в, у т л. тры 2-класныя, 40 3-класных, 17 4-класных. З 1909 было дапушчана навучанне дзяўчынак у межах 15 % ад агульнай колькасці вучняў. Выпускнікі Г в. маглі паступаць у ніжэйшыя прафесійныя школы, тыя з іх, хто скончыў 1- ці 2-гадовыя педагагічныя курсы — у настаўніцкія ін-ты. З 1912 Г. в. пераўтвараліся ў *вышэйшыя пачатковыя вучылішчы*

*Літ* Асвета і педагагічная думка ў Беларусі Са старажытных часоў да 1917 г Мн, 1985 *Г Р Сянькевіч*

**ГАРАДСКІЯ ПАДПОЛЬНЫЯ КАМІТЭТЫ КП(б)Б** у Вялікую Айчынную вайну, органы парт. кіраўніцтва барацьбой супраць ням.-фаш. захопнікаў у акупіраваных гарадах Беларусі ў 1941—44. Стваралі і ўзначальвалі патрыят падполле і партыз. рух, праводзілі арганізатарскую і паліт. работу сярод насельніцтва. Іх дзейнасцю кіравалі *Цэнтральны Камітэт КП(б)Б, абласныя падпольныя камітэты КП(б)*, міжраенныя парт. к-ты (цэнтры). На Беларусі дзейнічалі 8 гаркомаў. Баранавіцкі, Брэсцкі Вілейскі, Віцебскі, Гомельскі, Калінкавіцкі, Мінскі, Пінскі, 2 гаркомы-райкомы КП(б)Б — Барысаўскі і Лідскі

8.7.1941 ЦК КП(б)Б на акупіраваную тэр. Беларусі з-за лініі фронту накіраваны 1-ы састаў Барысаўскага падп гаркома-райкома. 16.7.1941, у дзень акупацыі Оршы, пакінутыя для падп. работы камуністы арганізавалі парт. цэнтр па кіраўніцтве падполлем у горадзе і раёне У жн. 1941 стварылі парт. цэнтр камуністы Брэста. Хоць гэтыя цэнтры не перараслі ў агульнагар. кіруючыя парт к-ты, яны адыгралі значную ролю ў мабілізацыі насельніцтва Оршы і Брэста на барацьбу з акупантамі. Загадзя быў створаны і перайшоў на нелегальнае становішча пасля акупацыі горада (19.8.1941) Гомельскі падп. гарком. Па ініцыятыве камуністаў, якія апынуліся ў акупіраваным Мінску, у канцы ліст.— пач снеж 1941 створаны Мінскі падп. гарком У 1943—44 гар. падп. к-ты, у т л Мінскі і Брэсцкі, ствараліся і зацвярджаліся ЦК, абкомамі і міжрайпарторганамі КП(б)Б Вопыт 1941—42 паказаў, што базіраванне гаркомаў у гарадах звязана з вял. цяжкасцямі і ахвярамі. Былі арыштаваны і пакараны смерцю амаль усе члены Мінскага гаркома, з прычыны гібелі кіраўнікоў спынілі работу Барысаўскі гарком-райком, Брэсцкі і Аршанскі парт. цэнтры. Таму створаныя ў 1943—44 гаркомы, як правіла, базіраваліся пры партыз. брыгадах і атрадах. Па сваёй структуры яны не адрозніваліся ад *раённых падпольных камітэтаў КП(б)Б* Арганізатарскую і парт.-паліт. работу ў гарадах яны праводзілі праз сувязных, апіраючыся на партыз. фарміраванні Баранавіцкі і Мінскі гаркомы, Барысаўскі і Лідскі гаркомы-райкомы мелі друкаваныя выданні — газеты.

*Літ* Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944) Мн, 1975

*А А Тозік*

**ГАРАДСКІЯ ПАДПОЛЬНЫЯ КАМІТЭТЫ ЛКСМБ** у Вялікую Айчынную вайну, кіруючыя камсамольскія органы на акупіраванай ням.-фаш. захопнікамі тэр. Беларусі ў 1941—44 Іх дзейнасць узначальваў ЦК ЛКСМБ, *абласныя падпольныя камітэты ЛКСМБ* Большасць сакратароў і членаў падп гаркомаў камсамола, пакінутых для работы ў гарадах, хутка была схоплена акупантамі і загінула. Створаныя ў розны час падп. гаркомы працавалі на ўсе гара-

ды, дзе да вайны былі гаркомы камсамола (акрамя Мазыра і Оршы), дзе функцыі гаркомаў выконвалі падп. райкомы камсамола (яны стваралі і ўзначальвалі камсамольска-маладзежнае падполле, вялі паліт.-выхаваўчую і арганізатарскую работу сярод юнакоў і дзяўчат, уздымалі іх на барацьбу супраць акупантаў). У гады вайны на Беларусі дзейнічалі 13 падп. гаркомаў ЛКСМБ (Бабруйскі, Баранавіцкі, Барысаўскі, Беластоцкі, Брэсцкі, Вілейскі, Віцебскі, Гомельскі, Гродзенскі, Магілёўскі, Мінскі, Мінскі Паўднёвы, Пінскі) і Лідскі гарком-райком З восені 1942 яны, як правіла, базіраваліся пры партыз. фарміраваннях і знаходзіліся пад аховай партызан. *Р М Шавяла*

**«ГАРАДСКІЯ» СЯЛЯНЕ,** катэгорыя сельскага феадальна-залежнага насельніцтва, прыпісанага да маенткаў, што належалі гарадам, існавала ў 15—19 ст. пераважна ў зах. частцы Беларусі. Гарадское землеўладанне склалася ў 15—16 ст. шляхам куплі магістратамі маенткаў у прыватных асоб, што пацвярджалася прывілеямі вял кн ВКЛ Такія правы атрымалі Брэст (1408), Гродна (1502 і 1506) і інш. У 1611 сейм Рэчы Паспалітай забараніў гарадам набываць маенткі, «Г.» с. атрымлівалі ў карыстанне зямлю і адбывалі за гэта паншчыну ці плацілі аброк. У 19 ст. некаторыя гар думы прыцягвалі іх да выканання грамадскіх павіннасцей па прыбіранні вуліц, рамонце мастоў і інш. Пасля 6-й рэвізіі (1811) сяляне гар весак абкладаліся падушным падаткам. Паводле 9-й рэвізіі (1850) у Віленскай губ. іх налічвалася 305, у Гродзенскай — 3847 душ мужчынскага полу.

*Літ* Сосно В А «Городские» крестьяне Западной Белоруссии в середине XIX в // Взаимосвязи города и деревни в их историческом развитии XXII сес Всесоюз симпоз по изучению проблем аграрной истории Тез докл и сообщ, Минск, 11—14 окт 1989 г М, 1989 *У А Сосна*

**ГАРАДСКОЕ ПРАВА,** сукупнасць юрыдычных норм, што рэгулявалі адносіны жыхароў сярэдневяковых гарадоў Еўропы. Фарміраванне Г п. пачалося ў 11 ст., свайго росквіту яно дасягнула ў 14 ст. Крыніцамі служылі імунітэтныя граматы, дадзеныя сеньерамі, у якіх фіксаваліся прывілеі і вольнасці канкрэтнага горада; мясцовыя звычаі, якія рэгулявалі рамесна-гандлёвую дзейнасць і ўмовы жыцця гараджан; судовая практыка па крымінальных і цывільных справах; з 12 ст. рэцэптаванае рымскае права. Найбольшае распаўсюджанне і распрацаванасць Г. п набыло ў сярэдневяковай Германіі (напр., права г. Вормса 11—12 ст., г. Магдэбурга 13 ст.) Зборнікі Г п выдаваліся паўсюдна ў Зах Еўропе (статуты камуны Падуі ў Італіі, права г Берна 1218 у Швейцарыі, правы г Вены 1221 у Аўстрыі) На Беларусі нормы Г. п. замацоўваліся ў гандлёвых дагаворах Полацка, Віцебска з Ноўгарадам, Рыгай, Смаленскам (13—15 ст) Многія гарады і мястэчкі Беларусі карысталіся магдэбургскім правам. У гарадах Беларусі дзейнічала таксама ўласна беларускае Г. п. *(Аршанскае права, Віцебскае права, Полацкае права)*, шэраг прававых норм Статутаў ВКЛ. У бел. гарадах, якія ў выніку падзелу Рэчы Паспалітай у канцы 18 ст. былі ўключаны ў склад Расійскай імперыі, нормы Г. п., узятыя з пэўнымі зменамі дастасоўна да ўмоў Беларусі з магдэбургскага права і Статутаў ВКЛ, перасталі дзейнічаць, бо набыло сілу гар. ўлажэнне, пазней уключанае ў збор законаў Расійскай імперыі

*Літ* Владимирский-Буданов М Ф Немецкое право в Польше и Литве Спб, 1868, Белоруссия в эпоху феодализма Сб документов и материалов Т 1—2 Мн, 1959—60 *В У Сажына*

**ГАРАІН** Ян Непамуцэн (1760—1820), удзельнік *паўстання 1794* у Польшчы, на Беларусі і Літве. Сын берасцейскага ваяводы Яна Антонія. У 1775 уступіў у корпус кадэтаў у Варшаве. З 1782 дэпутат сеймаў Рэчы Паспалітай, з 1786 чл. скарбовай камісіі ВКЛ, у 1792 чл. скарбовай камісіі «абодвух народаў». У студз. 1794 удзельнічаў у працы вайсковай камісіі літоўскай, у крас.— у складзе Вайсковага аддзела паўстанцкай Часовай намесніцкай рады Удзельнік падп. патрыятычнага руху. Часовай паўстанцкай радай накіраваны ў вызваленую Вільню. Арганізатар паўстання на Брэстчыне і Падляшшы. З мая намеснік радцы (члена) *Найвышэйшай нацыянальнай рады*, у ліп. 1794 Т. Касцюшка прызначыў яго палкоўнікам паспалітага рушэння. З корпусам Ю *Серакоўскага* ўдзельнічаў у баях супраць войск А. В. Суворава. Пасля задушэння паўстання жыў у Гродне, Варшаве, у 1812 бурмістр Вільні, у 1813 жыў у Дрэздэне, потым у Парыжы. Пасля ўказа аб амністыі 10.4.1814 — на радзіме, дзе яму былі вернуты маенткі. *А П Грыцкевіч*

**ГАРАМЫКІНА** Вера Іванаўна (н. 14.7. 1920, Іванаўскія хутары, цяпер Брэйтаўскі р-н Яраслаўскай вобл.), гісторык антычнасці. Д-р гіст н. (1989) Праф. (1990) Скончыла Яраслаўскі пед. ін-т (1948) З 1952 заг. кафедры ўсеаг. гісторыі Віцебскага пед ін-та, з 1954 на кафедры ўсеагульнай гісторыі Магілёўскага пед. ін-та, з 1957 — Кабардзіна-Балкарскага ун-та З 1961 дацэнт кафедры гісторыі стараж. свету і сярэдніх вякоў БДУ, з 1962 на кафедры ўсеаг. гісторыі Мінскага пед. ін-та Даследуе гісторыю ранніякласавых грамадстваў і пераходны перыяд ад антычнасці да сярэднявечча Аўтар дапаможнікаў для студэнтаў ВНУ па гісторыі стараж. свету.

*Тв* К проблеме истории докапиталистических обществ (на материале Древней Руси) Мн, 1970 Об общине и индивидуальном хозяйстве в Древней Руси // История СССР 1973 № 5, О генезисе феодализма в Древней Руси // Вопр истории 1987 № 2, В поисках истины о раннем христианстве Мн, 1989, Возникновение собственности на землю Мн, 1991

**ГАРАНІ,** гарадзішча 1-га тысячагоддзя да н э — пач 2-га тысячагоддзя н э каля в Гарані Смаргонскага р-на. За 1,5 км на ПнЗ ад вёскі, на зах. беразе воз. Свір. Займае ўзгорак. Пляцоўка трохвугольная, памерам 75×60 м Штучных умацаванняў няма. Выявіў у 1978 і ў 1981 даследаваў Я Г Зверуга Культурны пласт ад 0,3—0,5 м па краях пляцоўкі, да 2—2,5 м у цэнтры

Выяўлены рэшткі наземных жытлаў з агнішчамі, абкладзенымі камянямі. Знойдзена шмат вырабаў з косці (наканечнікі коп'яў і стрэл, муфты-насадкі, долаты, тронкі, шпількі, іголкі, праколкі, амулеты, музычныя інструменты тыпу жалейкі), каменю (больш за 40 шліфаваных сякер-клінкоў і каля 10 прасвідраваных сякер), жалеза (сярпы, сякеры, наканечнікі стрэл, нажы, рыбалоўныя кручкі, іголкі, шпількі), гліны (прасліцы, тыглі, грузілы для сетак, мініяцюрныя рытуальныя пасудзіны, тачыльныя камяні, абломкі зерняцерак), ляпная, гладкасценная і штрыхаваная кераміка, фрагменты ганчарнага посуду

*Літ* Зверуго Я Г Исследования в Понеманье // Археологические открытия 1978 года М, 1979, Его ж Раскопки Гораньского городища // Археологические открытия 1980 года М, 1981 *Я Г Зверуга*

**ГАРАНІН** Анатоль Мікалаевіч [8(20). 11 1898, г. Магілёў — 16.9 1970], генерал-лейтэнант артылерыі (1944). Скончыў артыл. школу (1923) Удзельнік грамадз., сав.-фінляндскай 1939—40 войнаў. У Вял. Айч. вайну нач. упраўлення ППА, нам. камандуючага артылерыяй па ППА Карэльскага і Паўд.-Зах. франтоў, удзельнік абароны Сав. Заполяр'я. Са снеж 1943 да вер. 1946 нам. нач. Цэнтр. штаба войск ППА Сав. Арміі.

**ГАРАЎЛЯНСКІЯ МАНЕТНА-РЭЧАВЫЯ СКАРБЫ.** Знойдзены ў 1965 на паселішчы каля в. Гараўляны Глыбоцкага р-на. Кожны з 2 скарбаў змяшчаўся ў ляпным гліняным гаршку Адзін скарб складаўся з фрагментаў сярэбраных ювелірных вырабаў (2 кавалкі чатырохграннага дроту, 3 фрагменты і 1 цэлая загатоўка для пласціністага бранзалета, спражка), шыфернага прасліца, 220 *дырхемаў* Арабскага халіфата, 185 дэнарыяў Англіі, Германіі, Францыі, Чэхіі Другі скарб складаўся з цэлых і фрагментаваных сярэбраных ювелірных вырабаў (бранзалеты, пярсцёнак, загатоўкі ўпрыгожанняў), 15 манет-перайманняў куфічных дырхемаў у выглядзе бракгэатаў (тонкіх аднабаковых манет) з вушкамі для падвешвання, шкляных залачоных бочачкападобных пацерак, 134 пераважна фрагментаваных дырхемаў Арабскага халіфата і дэнарыя Чэхіі Ухаваны скарбы ў сярэдзіне 11 ст і, магчыма, з'яўляліся сыравіннымі запасамі ювеліраў.

*Літ* Рабцэвіч В Н, Стуканаў А А Манеты Арабскага халіфата на тэрыторыі Беларусі // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі 1973 № 4 *В Н Рабцэвіч*

**ГАРАЎСКІЯ,** жывапісцы, браты Ураджэнцы маентка Уборкі Ігуменскага пав Мінскай губ (цяпер Бярэзінскі р-н).

мяса, тлушчу, мяздры і скурнай клятчаткі, выдаленне і саскрабанне поўсці вапнаю і попелам; квашанне (надавала скуры мяккасць і гнуткасць), дубленне карой дуба ці вярбы (надавала скуры трываласць). У залежнасці ад якасці і спосабу апрацоўкі атрымлівалі скуру рознага прызначэння (на абутак, кажухі і інш.). Сыравінай служылі скуры буйной рагатай жывёлы, зрэдку коней і свіней. Сырыя скуры кансервавалі метадам салення і сушэння Для мокрасаленай кансервацыі мяздру пасыпалі соллю або апускалі скуру ў канцэнтраваны раствор солі. Пры сухасалёным метадзе скуру пасля засолкі сушылі, пры прэснасухім — сушылі без засолкі. Пасля апрацоўкі скуры фарбавалі, пакрывалі тлушчам (жыравалі). У 19 ст. на Беларусі для фарбавання ўжывалі купарвас, цындру (жалезнае плавінне), індыга і інш. У якасці тлушчу выкарыстоўвалі бярозавы дзегаць, алей, ялавічны тлушч, ворвань Прасушаную пасля тлушчэння скуру стругалі (здымалі мяздру), мялі, глянцавалі качалкамі, каткамі. Гатовая прадукцыя адрознівалася па гатунках: юхт (для верху абутку), падэшвенная скура, апойка (з цяляці-сысуика), саф'ян (мяккая скура з казліных, цялячых, авечых скур), замша і лайка (з авечых скур) Юхт і апойку выраблялі белага, шэрага і чорнага, саф'ян чырвонага, жоўтага, зялёнага, чорнага колераў. Г было пашырана пераважна ў мястэчках і гарадах Беларусі, а з сярэдзіны 19 ст. і ў вёсках, калі заможныя сяляне пачалі шыць скураны абутак. У канцы 19 — пач. 20 ст. гарбарная вытворчасць развівалася як фабрычна-заводская і саматужная (апошняя пераважала). Тыповымі былі невялікія гарбарні, у якіх працаваў гаспадар з 2—4 рабочымі або членамі сям'і. Найбольшымі цэнтрамі былі Гродна, Мір, Ліда, Пружаны, Кобрын, Ашмяны, Смаргонь, Віцебск, Полацк, Лепель, Усвяты, Магілёў, Шклоў, Крычаў, Клімавічы, Давыд-Гарадок, Тураў, Петрыкаў, Слуцк, Мазыр, Брагін, Рэчыца. Вял. попытам і за межамі Беларусі славіліся магілёўскія і мазырскія скуры. У 1920—40-я гады саматужнае Г было забаронена. У 1950-я гады кааператыўна-прамысл. арцелі рэарганізаваны ў дзярж. прадпрыемствы. Тэхналагічны працэс апрацоўкі скур захоўвае свае асн. традыцыйныя аперацыі.

*Літ* Промыслы і рамествы Беларусі Мн, 1984; Штыхаў Г В Гарбарнае рамяство старажытнага Полацка // Весці АН БССР Сер грамад навук 1961 № 3 Тарасов С В Технология и инструменты кожевенно-сапожного ремесла Полоцка и Минска (XI—XVIII вв) // Памятиики иауки и техники, 1987—1988 М, 1989

*Н І Буракоўская, С В Тарасаў*

**ГАРБАТАЎ** Аляксандр Васілевіч [9(21). 3 1891, в. Пахоціна Шуйскага пав, цяпер Палехскага р-на Іванаўскай вобл — 7.12. 1973], Герой Сав Саюза (1945), ген арміі (1955). У арміі з 1912, у Чырв. Арміі з 1919. У час 1-й сусв вайны унтэр-афіцэр. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 чл палкавога і дывізійнага салдацкіх к-таў Удзельнік грамадз вайны радавы, камандзір узвода, эскадрона, палка, асобнай кав. брыгады Скончыў кав. камандныя курсы (1926), курсы ўдасканалення вышэйшага камсаставу (1930). У 1933—37 камандзір кав. дывізіі. У кастр. 1937 арыштаваны органамі НКУС СССР, у сак. 1941 вызвалены У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 на Паўд.-Зах., Данскім, Сталінградскім, Бранскім, Цэнтр., Бел., 1-м і 2-м Бел. франтах: нам. камандзіра корпуса, камандзір дывізіі, корпуса, інспектар кавалерыі фронту, нам. камандуючага арміяй. У чэрв. 1943 — маі 1945 камандуючы 3-й арміяй, якая ўдзельнічала ў Курскай бітве, *Гомельска-Рэчыцкай аперацыі 1943, Рагачоўска-Жлобінскай аперацыі 1944, Беларускай аперацыі 1944,* вызваленні Касцюковічаў, Прапойска (Слаўгарада), Рагачова, Мінска, у акружэнні і знішчэнні гітлераўцаў пад Бабруйскам, у фарсіраванні Сажа, Дняпра, Бярэзіны. Удзельнік вызвалення Польшчы, Усх-Прускай і Берлінскай аперацый. З чэрв. 1945 камандуючы 5-й ударнай арміяй і камендант Берліна. У 1946—58 камандуючы агульнавайск арміямі, паветр-дэсантнымі войскамі, а таксама войскамі Прыбалт. ваен. акругі. З крас 1958 ваенны інспектар-саветнік Групы генеральных інспектараў Мін-ва абароны СССР. Канд. у чл. ЦК КПСС у 1952—61 Дэп. Вярх. Савета СССР у 1946—62 Яго імем названы вуліцы ў гарадах Асіповічы, Ваўкавыск, Гомель, Рагачоў, у г. п. Свіслач.

*Тв* Годы и войны М, 1965

*У С Храпаў*

**ГАРБАЧО́Ў** Барыс Сяргеевіч [7(19) 8 1892, в. Забалацце Рагачоўскага пав., цяпер Рагачоўскі р-н — 3.7.1937], савецкі ваенны дзеяч, камкор (1935) З 1913 у арміі. Удзельнік 1-й сусв. вайны, ст. унтэр-афіцэр. У 1917 па спісе бальшавікоў выбраны ў Мінскі Савет. Арганізаваў атрад Чырв. гвардыі, на чале якога ўдзельнічаў у ліквідацыі мяцяжу корпуса Доўбар-Мусніцкага, у барацьбе з германскімі акупантамі. У грамадз. вайну камандаваў Асобым жалезным кав палком. З восені 1919 камандзір кав. палка, брыгады ў складзе 1-й Коннай арміі. Узнаг. 3 ордэнамі Чырв. Сцяга. У 1926 скончыў Ваен акадэмію імя Фрунзе. Камандзір кав. брыгады, дывізіі, нач. і ваенком Аб'яднанай ваен школы імя ВЦВК, камандзір і ваенком корпуса ваен. навуч. устаноў Маскоўскай ваен. акругі. У 1937 камандуючы войскамі Забайкальскай, Уральскай ваен. акруг. Чл. Ваен савета пры НКА СССР Выбіраўся чл. ВЦВК і ЦВК СССР Аўтар успамінаў «У барацьбе за Савецкую Беларусь» (Бальшавік Беларусі 1935 № 10—11) У 1937 незаконна рэпрэсіраваны. Рэабілітаваны ў 1956.

**ГАРБАЧОЎ** Міхаіл Сяргеевіч (н 2.3. 1931, с Прывольнае Краснагвардзейскага р-на Стаўрапольскага краю), савецкі парт. і дзярж. дзеяч Скончыў юрыд. ф-т Маскоўскага ун-та (1955), Стаўрапольскі с-г. ін-т (1967). У 1952 уступіў у КПСС. З 1955 на камсамольскай і парт. рабоце. З 1956 1-ы сакратар Стаўрапольскага гаркома, з 1958 2-і, 1-ы сакратар Стаўрапольскага крайкома ВЛКСМ. У 1962 парторг Стаўрапольскага тэр-вытв. калгасна-саўгаснага ўпраўлення, у 1963—66 заг. аддзела парт. органаў крайкома КПСС. З 1966 1-ы сакратар Стаўрапольскага гаркома, з 1968 2-і, 1-ы сакратар Стаўрапольскага крайкома КПСС З 1978 сакратар, у сак 1985 — жн. 1991 Ген. сакратар ЦК КПСС. У 1988—89 Старшыня Прэзідыума Вярх. Савета СССР, у 1989—90 Старшыня Вярх Савета СССР. У сак.— снеж. 1991 Прэзідэнт СССР. Чл. ЦК КПСС з 1971, канд. у чл. Палітбюро ЦК КПСС з 1979, чл. Палітбюро ЦК КПСС з 1980, старшыня Расійскага бюро ЦК КПСС у 1989—90. Дэп. Вярх. Савета СССР у 1970—89. Нар. дэп. СССР у 1989—90. Неаднаразова наведваў Беларусь. Нобелеўская прэмія міру 1990. У сак. 1992 узначаліў створаны па яго ініцыятыве Міжнародны фонд сац-эканам. і паліт. даследаванняў.

*Тв* Перабудова і новае мысленне для нашай краіны і для ўсяго свету Пер з рус Мн, 1988, Выбраныя прамовы і артыкулы

*Літ* Улашчык Н Н. Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода М, 1973, Н И Горбачевский / Сост Л. Л Толкачева Мн, 1991 *П Р Казлоускі*

**ГАРБУ́З** Сцяпан Кузьміч [парт. псеўд. Паддубны; 16(28) 12.1894, в. Касцюкі Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Уздзенскі р-н — 27.8.1944), дзеяч рэв. руху ў Зах. Беларусі. Скончыў Панявежскую настаўніцкую семінарыю (1916, у Мсціславе), БДУ (1925). З 1916 у арміі, потым настаўнік на Случчыне і Бабруйшчыне. З студз. 1919 у Чырв. Арміі на Зах. фронце. Чл КПСС з 1919. У 1921—24 ва ўстановах Наркамасветы БССР, кіраўнік спраў ЦБ, ЦК КП(б)Б. У 1924—27 заг. аргаддзела Полацкага, сакратар Калінінскага акр. к-таў КП(б)Б, нам. заг. аргаддзела ЦК КП(б)Б. У сак. 1928 — снеж. 1929 на падп. рабоце ў Зах Беларусі, чл. ЦК КПЗБ, чл. Сакратарыята ЦК Кампартыі Польшчы. З 1930 у Маскве ў Камуніст ін-це журналістыкі, потым на парт. і гасп рабоце. 20.7.1939 асуджаны Ваен. трыбуналам Маскоўскай ваен. акругі на 8 гадоў пазбаўлення волі. Рэабілітаваны пасмяротна. Канд. у чл. ЦК КП(б)Б у 1926, чл. ЦК КП(б)Б у 1927—28. Чл ЦВК БССР у 1927.
*Л І Балыніна*

**ГАРБУНО́Ў** Цімафей Сазонавіч [24. 7(6.8).1904, в. Саннікі Лепельскага пав. Віцебскай губ., цяпер Бешанковіцкі р-н— 8.10.1969], грамадскі, парт. і дзярж. дзеяч БССР, бел. гісторык. Акад. АН БССР (1959). Скончыў БДУ (1936), Акадэмію грамадскіх навук пры ЦК ВКП(б) (1948). З 1919 працаваў на лесапільні, ільнопрадзільнай ф-цы «Дзвіна» ў Віцебску. Потым на культурна-асветнай, журналісцкай, камсамольскай рабоце. З 1926 чл. КПСС. З 1933 карэспандэнт газ. «Правда», з 1937 гал. рэдактар дзярж. выдавецтва БССР, з 1939 рэдактар газ. «Звязда». У 1941—47 і 1950—60 сакратар ЦК КПБ. У пачатку Вял. Айч. вайны на паліт. рабоце ў Чырв Арміі, удзельнічаў у арганізацыі партыз. руху на Беларусі У 1942—45 чл прэзідыума Усеславянскага к-та і рэдактар час. «Славяне», адначасова ў 1942—46 узначальваў *Камісію па гісторыі Айчыннай вайны* пры ЦК КП(б)Б, у 1949—50 нам. старшыні праўлення Усесаюзнага т-ва па распаўсюджванні паліт. і навук. ведаў, рэдактар час. «Наука и жизнь». У 1960—67 акадэмік-сакратар Аддз грамадскіх навук АН БССР. Чл. ЦК КПБ у 1941—66, чл. Бюро ЦК КПБ у 1945—47 і 1950—60. Дэп. Вярх. Савета СССР у 1946—62, Вярх. Савета БССР у 1947—67 У 1955—63 старшыня Вярх. Савета БССР. Аўтар прац па гісторыі ўтварэння БССР, уз'яднання бел. народа ў адзінай дзяржаве, папулярных выданняў па гісторыі Беларусі. Творы Г., як і большасці тагачасных сав гісторыкаў, напісаны з пазіцый марксісцка-ленінскай канцэпцыі развіцця грамадства, з падкрэсленым перабольшваннем значэння рэв. і класавай барацьбы працоўных Беларусі Тым не менш яго кнігі

Ц С Гарбуноў.

«Гераічнае мінулае беларускага народа» (1945) і 1-е выданне «Уз'яднанне беларускага народа ў адзінай савецкай сацыялістычнай дзяржаве» (1949) былі залічаны ў разрад нацыяналістычных і забаронены для выкарыстання ў бібліятэках, асноўны іх тыраж знішчаны, адзінкі захоўваліся ў спецсховішчах. Яго імем названа вуліца ў г п Бешанковічы.

*Тв* Освобожденная Западная Белоруссия М, 1940, Образование Белорусской Советской Социалистической Республики М, 1949, Уз'яднанне беларускага народа ў адзінай савецкай сацыялістычнай дзяржаве 2 выд Мн, 1952, Народы-братья О связях белорусского народа с народами Прибалтики Мн, 1961, В И Ленин — создатель белорусского советского социалистического государства Мн, 1962
*І П Хаўратовіч*

**ГАРДЗЕ́ЙЧЫК** Барыс Іванавіч [ліп. 1901, в. Бярэзаўцы Лідскага пав. Віленскай губ. (цяпер Іўеўскі р-н) — 18.9. 1966], адзін з кіраўнікоў партыз. руху на Беларусі ў Вял. Айч. вайну. Скончыў Рэсп парт. школу пры ЦК КПБ (1953). Напярэдадні вайны быў на гасп рабоце ў Васілішкаўскім р-не. У партызанах з канца 1941· камандзір групы, узводв, адначасова з мая 1942 член Акруговага антыфаш к-та Баранавіцкай вобл. (гл *Баранавіцкая акруговая антыфашысцкая арганізацыя*), з вер. 1943 камісар атрада, у лютым—ліп. 1944 — партыз. брыгады імя Ленінскага камсамола. З 1944 на сав. рабоце.

**ГАРКУ́ША** Ілья, адзін з кіраўнікоў паўстанцкіх атрадаў у час *антыфеадальнай вайны 1648—51* на Украіне і Беларусі. Нарадзіўся ў Быхаве. Палкоўнік войска Запарожскага У 1648 з атрадам прыйшоў з Украіны на Беларусь, дзе да яго далучыліся бел. паўстанцы-сяляне. На пераправе цераз Бярэзіну каля мяст. Горваль перамог атрад стражніка ВКЛ Г. Мірскага. У снеж. 1648 няўдала асадзіў Стары Быхаў. У 1651 з атрадам у 15 тыс. чал. ваяваў у раёне Прыпяці Па дарозе дв Чачэрска яго атрад быў разбіты войскам ВКЛ пад камандаваннем Я. Паца. Другое паражэнне атрымаў у баі пад Чэрыкавам з аб'яднанымі войскамі Горскага, Паца, Валовіча У жн. 1651 па загаду В. Хмяльніцкага з атрадам адправіўся па Дняпры да Кіева. У сак. 1654, магчыма, пасол Хмяльніцкага ў Маскве.

*Літ* Документы об освободительной войне украинского народа 1648—1654 гг Киев, 1965, Kołłubaj E Życie Janusza Radziwiłła Wilno, Witebsk, 1859.
*В І Мялешка.*

**ГАРМО́ЗА** Міхаіл Міхайлавіч (19.8. 1917, в. Чапля Мінскага пав., цяпер Дзяржынскага р-на — 24.6.1985), Герой Сав. Саюза (1940). Працаваў трактарыстам у Дзяржынскай МТС. У ВМФ з 1938. Удзельнік сав.-фінляндскай вайны 1939—40. У баі на Карэльскім перашыйку 8.2.1940 наводчык гарматы гаўбічнай батарэі берагавога атрада суправаджэння Балтыйскага флоту матрос Г. з гарматы прамой наводкай знішчыў варожыя ўмацаванні, што адкрыла шлях для наступлення сав. войск. Скончыў Кіеўскае танкавае вучылішча (1941). У Вял. Айч. вайну з 17.7 1941 на Паўд.-Зах., Волхаўскім, Паўн.-Зах., 1-м Бел. франтах, камандзір танка, нам. камандзіра і камандзір танк. роты, капітан. Пасля вайны служыў у ВМФ. У 1948—60 у органах МУС БССР.

**ГАРНАСТА́І**, шляхецкі род, прадстаўнікі якога займалі высокія дзярж. пасады ў ВКЛ, мелі буйныя землеўладанні на Беларусі і Украіне. Першапачаткова карысталіся ўласным гербам, які нагадваў герб «Вага» з адметай (шалі, над карамыслам якіх — лілея). З 1554 [1544(?)] паводле прывілея Жыгімонта Аўгуста атрымалі герб «Гіпацэнтаўр» (выява каня, у якога галава, грудзі і рукі чалавека, замест хваста — пашча дракона, якога паражае страла, выпушчаная з лука рукамі самой жа жывёліны). Найбольш вядомыя прадстаўнікі роду

Раман Івашкавіч [?—1487(?)], першы вядомы з роду Г, намеснік пуцуўльскі ў 1476—82, оўруцкі ў 1486. Верагодна, яго сынам быў Сенька Раманавіч, намеснік жытомірскі ў 1486.

Гарнастай (Астафі) [каля 1460(?) — 1503], сын Рамана, ключнік кіеўскі ў 1486, намеснік оўруцкі ў 1487—93, загінуў у бітве з татарамі. Меў за жонку Марыю, дачку кіеўскага баярына С. Скіпара, за якой узяў шэраг маенткаў у Житомірскім пав. (Тулина і інш.), некалі дадзеных Скіпару кн. Сяменам Алелькавічам. Меў сыноў Івана, Анікея і Уласнага (Уласа). Апошні меў сыноў Лаўрына (упамінаецца 1559) і Уласнага (п. у 1585).

Іван (?—1558), сын Гарнастая, пісар ВКЛ і маршалак надворны з 1508, пасол у Маскве ў 1522, дзяржаўца дарсунішскі ў 1525, падскарбі земскі і староста слонімскі ў 1531, дзяржаўца мсцібогаўскі ў 1534, зэльвенскі ў 1535 У 1538—42 часова выконваў абавязкі ваяводы трокскага, у 1549—51 — віленскага. У 1539—51 таксама дзяржаўца біршцянскі, з 1556— крэўскі. У 1551

ваяводв наваградскі. Набыў шэраг маёнткаў у Берасцейскім і Ваўкавыскім пав., ад паноў Кезгайлаў атрымаў Астрошыцы ў Менскім, а ў канцы жыцця — спадчыну сваёй апошняй жонкі князёўны М. Заслаўскай (па яе першым мужы кн. В. Друцкім-Талачынскім) у Аршанскім пав. (долю ў Друцку, Басеі, Гарах, Стараселлі і Талачыне). Ад шлюбу з князёўнай Г. В. Саламярэцкай (п. ў 1550) меў сыноў Гаўрылу, Івана, Гермагена, Астафія, дачок Настассю (жонка кн. Р. Сангушкі, потым Ф. Кміты), Ганну (жонка Б. Епімака, потым Ю. Гардыны), Алену (жонка П. Корсака), Яўгенію (жонка Ю. Хадкевіча) і невядомую з імя (жонка кн. Л. Палубінскага).

Анікей (?— перад 1567), сын Гарнастая, дваранін гаспадарскі ў 1529, дзяржаўца дубіскі і канеўскі, ключнік віленскі ў 1533, пісар ВКЛ у 1539, староста чаркаскі і канеўскі да 1547, дзяржаўца любашанскі ў 1546—55, староста гомельскі з 1547 і рэчыцкі з 1555, пасля брата Івана з 1551 маршалак надворны. Першай яго жонкай была Настасся, дачка Р. Грамыкі, другой — Багдана Храбтовіч, якая прынесла яму ў пасаг частку маёнткаў Горы і Дудаковічы ў Аршанскім пав. (па сваёй маці, князёўне Друцкай-Горскай). Меў адзінага сына Фрэдэрыка, які памёр маладым без нашчадкаў, пасля чаго яго маёнткі перайшлі да стрыечных братоў.

Гермаген (?—1553), сын Івана, пісар ВКЛ у 1551. Валодаў Сакаловам у Слонімскім пав.

Гаўрыла (Габрыель) [1515 (?) — 1588], сын Івана, намеснік камянецкі, ваявода і староста менскі ў 1566, ваявода берасцейскі ў 1576. Валодаў Капыламі, Шчытнікамі і Балатковам у Берасцейскім, Поцешу ў Вількамірскім пав., часткай Астрошыц, Талачына, Басеі. Са сваіх маёнткаў у 1567 ставіў у войска 49 коней. У 1585 маці Уласнага Уласнавіча Г. абвінаваціла яго ў смерці сына. Ад шлюбу з полькай Барбарай Ласкай меў сына Гераніма.

Іван [1520 (?) — 1566], сын Івана, намеснік дарсунішскі з 1551, уладальнік Поразава ў Ваўкавыскім, Мішневічаў у Берасцейскім пав., долі ў Друцку і інш. У 1567 яго ўдава Ульяна Багавіцінаўна стааіла ў войска 53 кані, яго маёнткі былі пазней падзелены паміж братамі.

Астафі [1530 (?) — пасля 1586], сын Івана, валодаў часткай Астрошыц і Стараселля, а таксама маёнткамі ў Трокскім пав., ставіў у войска 33 кані. Пакінуў адзіную дачку Соф'ю (жонка А. Талваша).

Геранім [1540 (?) — 1600], сын Гаўрылы, перадаў у 1590 маёнткі ў Аршанскім пав. (спадчыну М. Заслаўскай) канцлеру Льву Сапегу. Пакінуў 3 дачок і сына Самуэля [? — 1618 (?)], падкаморага кіеўскага, на сыне якога Міхаіле (п. у 1637) скончылася мужчынская лінія роду Г. Маёнткі іх адышлі да дачок Самуэля — Альжбеты (п. ў 1651), спярша жонкі А. Дарагаеўскага, потым трокскага ваяводы М. Абрамовіча, і Ганны (п. ў 1639), жонкі Р. Ляшчынскага.

*Літ.:* Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich. T. 3. Warszawa, 1882; Boniecki A. Herbarz Polski. T. 7. Warszawa, 1904; Яго ж. Poszet rodów w Wielkiem Księstwie Litewskiem w XV i XVI wieku. Warszawa, 1887. *В. Л. Насевіч.*

**ГА́РНЕЦ**, гарц, старажытная мера ёмістасці вадкасцей і сыпучых рэчываў. Назва паходзіць ад глінянага гаршчочка для вымярэння піва (варшаўскі гарц) і зерня (складаў 2 піўных Г.). У 13—19 ст. існавалі польскі (каронны) Г., роўны 4 квартам = 16 кватэркам = $^1/_{72}$ бочкі = 3,77 л (у далейшым 4 л). Навапольскі (варшаўскі) Г. па стандарту 1816 для сыпучых рэчываў складаў $^1/_4$ чвэрці, $^1/_{32}$ карца, а для вадкасцей — $^1/_{24}$ бочкі = 4 квартам = = 16 кватэркам = 32 паўкватэркам. Галіцыйскі Г. быў роўны 3,84375 л, рускі роўны $^1/_8$ чацверыка = 8 фунтам = = 2 паўгарцам = $^1/_{64}$ чвэрці = $^1/_4$ кадзі, або аковы = 3,27968 л.

Уставай мер вагаў вальнага (агульнага) сойма 1764 для Рэчы Паспалітай усталяваны Г., які ўмяшчаў 2 паўгарцы = 4 квартам = 16 кватэркам. У выглядзе агульнадзяржаўнага эталона (цэхавай або акаванай жалезам меры) для корца, корчыка і чвэрці рассылаўся ва ўсе ваяводскія і павятовыя цэнтры, мястэчкі, ратушы, магістраты, кірмашы, корчмы, шынкі для карыстання без платы. Узор цэхавага або вялікага Г. выраблялся за кошт ратуш (дзе іх не было — войтаў і бурмістраў) пад адказнасць ваявод. Паводле канстытуцыі ВКЛ 1766 Літоўскі камісійны Г. абвяшчаўся агульнай адзінкай вымярэння збожжа і напіткаў і павінен быў мець углыб 7 цаляў, 2 чвэрці і $^1/_8$ цалі, ушыр — 4 цалі, 3 чвэрці і $^1/_8$ цалі (1 цаля = $^1/_{24}$ локця). Збожжавая бочка ўмяшчала 4 чвэрці = = 8 асьмінам = 16 шаснаццаткам = 144 шынковым Г. = 5,6474 л (асьміна = 18 Г., чвэрць = 36 Г.). Для рознічнага гандлю ўжываўся шынковы (малы) Г. = = 2 паўгарцам = 4 квартам = 8 паўкватэркам = 2,8237 л. Цэхавы (вялікі) Г. прыраўноўваўся дв 2 шынковых. Чашай ёмістасці 6 цэхавых або 12 шынковых Г. мералі прэсны мёд. Збожжавыя меры (Г. і локці) акаймоўвалі жалезным прутом за кошт магістратаў. Злоўжыванне стандартам каралася штрафам у 100 коп літоўскік грошаў. На Беларусі Г. выцясняецца з ужытку з 1772 у працэсе ўвядзення казённай водкупнай сістэмы гандлю, асабліва алкаголем. 2) Гліняная пасудзіна. 3) Плата за памол у млыне і настаўніку за навучанне. У сувязі з гэтым ужываўся прыметнік «гарцавы» збор збожжа, (збожжа, сабранае як плата за памол).

*Літ.:* Volumina legúm. T. 7. Petersburg, 1860; Gloger Z. Encyklopedia staropolska ilustrowana. T. 2. Warszawa, 1978; Мелешко В. И. Очерки аграрной истории Восточной Белоруссии (вторая половина XVII—XVIII в.). Мн., 1975; Каменцева Е. И., Устюгов Н. В. Русская метрология. М., 1965; Скурат К. У. Даўнія беларускія меры: (лексіч. аналіз). Мн., 1974. *Я. К. Анішчанка.*

**ГАРНІЗО́НЫ НЯМЕ́ЦКА-ФАШЫ́СЦКІЯ** на акупіраванай тэрыторыі Беларусі ў Вялікую Айчынную вайну, ваенна-паліцэйскія падраздзяленні са шматлікімі функцыямі забеспячэння бяспекі тылу ням.-фаш. войск, паліт. тэрору, эканамічнага грабяжу; з'яўляліся ўвасабленнем палітыкі запалохвання і гвалту, сродкам барацьбы з сав. уладай і сав. патрыётамі. У сістэме *акупацыйнага рэжыму* яны павінны былі стаць ваен., эканамічнымі і паліт. апорнымі пунктамі фаш. «новага парадку» на месцак. Размяшчаліся ў гарадах, гар. пасёлках, вёсках, на важных аб'ектах — чыг. станцыях, раз'ездах і інш. Гарнізоны забяспечваліся радыё- і тэлефоннай сувяззю, мелі ўзгодненыя сістэмы баявога ўздзеяння, неабходны транспарт. Апорныя пункты асобных гарнізонаў ці сістэма іх маглі быць заняты рэгулярнымі часцямі ням.-фаш. войск і без значнага ваеннаінж. даабсталявання пераўтвораны ва ўмацаваныя абарончыя палосы перад фронтам наступаючык сав. войск. У ліст. 1942 аператыўнае ўпраўленне Генштаба сухапутных войск Германіі ў спец. пастанове ставіла перад начальнікамі гарнізонаў задачу стварыць такую сістэму абароны, якая выключала б магчымасць раптоўнага нападу і магла ўстаяць перад атакамі партызан. Гітлераўскае камандаванне патрабавала абараняць гарнізоны да апошняга салдата. За здачу іх пагражала суровае пакаранне. Найбольш умацаванымі гарнізонамі былі раёны, прылеглыя дв зон актыўных дзеянняў партыз. фарміраванняў, вобласць армейскага тылу ням. групы армій «Цэнтр», слабыя ўчасткі найб. важных магістральных і ракадных камунікацый. Сістэмай гарнізонаў прыкрываліся подступы да гарадоў, вузлоў чыгунак і шашы.

Напрыклад, 200-кіламетровы ўчастак дарогі Полацк — Маладзечна абаранялі ад партызан 23 гарнізоны (агульная колькасць 2 тыс. салдат); паміж Полацкам і ст. Бігосава на чыг. магістралі Рыга — Арол створана 29 гарнізонаў (3,5 тыс. салдат і паліцэйскіх); у 23 гарнізонак вакол Барысава (у радыусе да 20 км) размяшчалася каля 6 тыс. салдат ахоўных палкоў і паліцэйскіх; уздоўж шашы і чыгунак ад Оршы да Крупак (больш за 100 км) гітлераўцы стварылі 20 гарнізонаў (каля 4 тыс. салдат). Каля 60 гарнізонаў (10 тыс. салдат і паліцэйскіх) акружылі зоны дыслакацыі партыз. брыгад і атрадаў Палескай вобл. Толькі ў раёне дыслацыравання 1-й Беларускай партыз. брыгады ў Суражскім р-не знаходзілася больш за 30 гарнізонаў (каля 6 тыс. салдат і паліцэйскіх).

Барацьба партызан Беларусі супраць варожых гарнізонаў вялася з першых дзён акупацыі. Зімою 1941—42 гэта былі эпізадычныя налёты слабых яшчэ партыз. атрадаў і груп патрыётаў на параўнальна невял. апорныя пункты ворага (гл. *Багушэўскі бой 1941, Бобрыцкая*

*аперацыя 1942, Вятчынскі бой 1942*). ЦК КП(б)Б, ЦШПР, БШПР арыентавалі падп партыйныя органы і камандаванне партыз. фарміраванняў на разгром перш за ўсе буйных варожых гарнізонаў, разбурэнне ўсей сістэмы ням-фаш. апорных пунктаў. З восені 1942 з узмацненнем кіраўніцтва, удасканаленнем каардынацыі і ўзаемадзеяннем партыз атрадаў і брыгад, павышэннем арганізаванасці, баявой вывучкі і ваен. майстэрства байцоў і камандзіраў стала магчымым нанясенне адначасовых удараў па вузлах абароны ворага аб'яднанымі сіламі партыз. фарміраванняў на вял. аператыўнай прасторы Асноўнымі тактычнымі прыемамі барацьбы партызан сталі раптоўныя імклівыя налеты, блакіраванне і поўная ізаляцыя ўмацаваных гарнізонаў шляхам засад, мініраванне шляхоў зносін, знішчэнне ліній сувязі, дыверсій падпольшчыкаў унутры гарнізонаў, адначасовыя ўдары буйных партыз злучэнняў па сістэме варожых гарнізонаў, а таксама ў час партызанскіх рэйдаў. Разгром гарнізонаў меў вырашальнае значэнне ў стварэнні і пашырэнні тэр *партызанскіх зон*, зрыве *карных аперацый* акупантаў, ратаванні сав. людзей ад знішчэння ці ўгону на катаргу ў Германію. Разгром гарнізонаў звужаў аператыўную тактычную прастору праціўніка, зрываў ваен і эканам. планы акупантаў, меў вял. значэнне для папаўнення партызанамі запасаў зброі, боепрыпасаў, амуніцыі, харчавання, наносіў значныя страты ворагу ў жывой сіле і тэхніцы. Толькі ў сак 1943 партызаны (па няпоўных звестках) зрабілі 70 нападаў на фаш. гарнізоны, забілі і паранілі больш за 1110 гітлераўцаў Барацьба партызан Беларусі з гарнізонамі насіла актыўны, наступальны характар, уключала таксама і прапаганду сярод салдат і паліцэйскіх гарнізона. У барацьбе з варожымі гарнізонамі партызаны праяўлялі выключную мужнасць і адвагу, волю да перамогі, паказвалі высокую баявую вывучку і майстэрства. Асаблівасцю з'яўлялася цеснае ўзаемадзеянне партызан з падпольшчыкамі і насельніцтвам. Найбольш буйнымі баявымі аперацыямі партызан супраць Г. н.-ф. былі *Бягомльская аперацыя 1942, Бялыніцкія аперацыі 1943, Докшыцка-Круляўшчынская аперацыя 1943, Плешчаніцкая аперацыя 1943*, Вецлабодскі, Докшыцкі, Дамачэўскія, Клічаўскія, Лядскі, Пашкоўскі, Прыганінскі, Расонскі, Хаценчыцкі і інш баі 1942—43 (гл. адпаведныя артыкулы). Паводле няпоўных звестак, партызаны Беларусі ў баявым узаемадзеянні з партыз. фарміраваннямі Калінінскай, Смаленскай абл **РСФСР**, Літвы, Латвіі, Украіны ў 1941—45 зрабілі каля 1,5 тыс. налетаў і разграмілі каля 1 тыс гарнізонаў, многія з іх пасля разгрому не аднавіліся. Разгром варожых гарнізонаў аказваў значную дапамогу сав. войскам у вызваленні Беларусі ад ням.-фаш захопнікаў. *У С Пасэ*

**ГАРНО́Ў** Цімафей Якаўлевіч (1916, в Асіпова Віцебскага пав., цяпер Лезненскага р-на — 23 10.1944), Герой Сав Саюза (1945). У Чырв. Арміі з 1941. У Вял. Айч вайну з сак 1942 на Паўн-Зах. і 3-м Бел. франтах. Камандзір гарматы ст. сяржант Г вызначыўся пры вызваленні Віцебскай вобл і Літвы Загінуў у баі. Пахаваны ў пас Бабушкіна Несцераўскага р-на Калінінградскай вобл. Імем героя названы рыбалоўны траўлер на Балтыцы, яго імя прысвоена школе ў в. Асіпова.

Ц Я Гарноў.

**ГАРО́ДНЯ**, г а р а д н я, прамавугольны зруб з бярвен ці брусоў; тып *абарончага збудавання* ў 10—18 ст. Шэраг Г., шчыльна пастаўленых адна да адной тарцамі, утваралі абарончую сцяну Будавалі 1-ярусныя (вышыня 3—4 м) і 2—3-ярусныя. У верхняй частцы Г насцілалі баявую галерэю (бланкаванне, вуліца) з аблáмамі і байніцамі, перакрытую 2-схільнай гонтавай страхой Ніжнюю частку Г. маглі засыпаць зямлей ці каменнем, пустыя зрубы выкарыстоўвалі як укрыцце (схаванне) для жыхароў горада і хатняга скарбу на час аблогі або ў якасці розных гасп. памяшканняў, складу правіянту (жытніца, спіхлеры) на выпадак вайны Сценкі, звернутыя ў бок поля, рабілі таўшчыней у 2—5 бярвен для большай трываласці (Полацкі Верхні замак, 1552). Каб засцерагчы ад гніення і пажараў, сцены абмазвалі глінай да ўзроўню галерэі. Г выкарыстоўвалі для абароны драўляных замкаў у большасці гарадоў Беларусі (Віцебскі Узгорскі замак, замкі Полацка, Мсціслава, Крычава, Слаўгарада, Гомеля, Мазыра і інш.). Рэшткі Г. 13 ст. выяўлены ў Навагрудскім Малым замку і згарэлага бланкавання ў Гродзенскім Старым замку.

*Літ* Т к а ч о ў М А Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII—XVIII стст Мн, 1978 *М А Ткачоў*

**ГАРО́ШАК** Павел Антонавіч (н. 10 6 1925, в. Нованіkалаеўка Федараўскага р-на Башкірскай АССР), Герой Сав. Саюза (1943). Беларус У Чырв Арміі з 1943 Скончыў пяхі вучылішча (1943). У Вял. Айч. вайну з ліп. 1943 на Варонежскім і 1-м Укр. франтах, санітар Вызначыўся ў вер. 1943 пры фарсіраванні Дняпра ў Кіеўскай вобл 22.9 1943 у складзе перадавога атрада пераправіўся цераз раку і аказаў мед. дапамогу 26 салдатам і афіцэрам, вынес з поля бою 32 параненых і іх зброю Да 1946 у Сав. Арміі. Скончыў танкавае вучылішча (1945), Мінскі юрыдычны ін-т (1951).

**ГАРО́ШКА** Леў Юр'евіч [айцец Леў, псеўд. Ант. Ж м е н я, Пр. К а в а л ь; 26.2(11 3).1911, в Трашчычы Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер Карэліцкі р-н — 8 8.1977], беларускі святар, рэлігійны і грамадскі дзеяч, даследчык гісторыі рэлігіі і царквы на Беларусі, бел. культуры, літаратар. Скончыў Навагрудскую бел гімназію (1931), вучыўся ва Укр. духоўнай акадэміі ў Львове (1931—36). У 1937 рукапалажаны ў святары, з 1965 архімандрыт. У 1937—39 праводзіў бел. душпастырства ў Пінскай дыяцэзіі (Любашава, Грынічы, Гродна, Стоўбцы) Праследаваўся польскімі свецкімі і царк. уладамі. У 1939—44 выкладчык бел мовы і інш. прадметаў у баранавіцкіх гандлевай і мед. школах. Удзельнік *Другога Усебеларускага кангрэса* 1944 у Мінску З 1944 у эміграцыі. Арганізоўваў бел душпастырства ў Германіі (1945), быў рэктарам Бел каталіцкай місіі ў Францыі (1946) і Вялікабрытаніі (1960), кіраўніком бел школы імя св Кірылы Тураўскага ў Лондане (1961) і бел. секцыі радыё Ватыкана (1970—77), рэдактарам і выдаўцом час. *«Божым шляхам»* (1947—57) Рэлігійную, культурна-асв. дзейнасць спалучаў з вывучэннем, папулярызацыяй багаслоўскай думкі, гісторыі хрысціянскай царквы і рэліг адносін на Беларусі, бел культуры Аўтар шэрага публікацый па гэтай тэматыцы, у т. л біяграфічных нарысаў пра бел. святых Ефрасінню Полацкую, Кірылу Тураўскага, рэліг-грамадскіх дзеячаў У. Талочку, А. Станкевіча, А. Неманцэвіча Асаблівую ўвагу звяртаў на ролю царквы, найперш грэка-каталіцкай (уніяцкай), у кансалідацыі, нац самапазнанні і адраджэнні бел. народа, выкрываў асімілятарскую палітыку свецкіх і духоўных улад Расіі і Польшчы, праваслаўных і каталіцкіх структур на Беларусі. Праводзіў ідэю ўзаемазалежнасці і ўзаемадзеяння рэлігіі, навукі і культуры дзеля гарманічнага развіцця чалавека і грамадства У час. «Божым шляхам» выступаў з маст. замалеўкамі і нарысамі на рэліг.-маральныя і бытавыя тэмы з бел жыцця («На Куццю», «Братспасіцель», «На кліч званоў», «Пад птушыны спеў», «Абышлісн без цуда», «Хто сее вецер, той пажне буру» і інш). Выдаў «Зборнік беларускіх народных прыказкаў і прымаўкаў» (Лондан, 1963), склаў грэка-лацінска-царкоўнаславянска-беларускі слоўнік (20 тыс слоў) Кніжныя і рукапісныя зборы Г ляглі ў аснову *Беларускай бібліятэкі і музея імя Францішка Скарыны* ў Лондане

*Тв* Божым шляхам Малітаўнік для беларусаў Рым, 1946, Беларусь у датах і

і з'езда народаў Расіі ў Кіеве (вер. 1917) На 3-м з'ездзе *Беларускай сацыялістычнай грамады* (кастр. 1917) абраны чл. ЦК. На 2-й сесіі Цэнтр. Рады бел. нацыянальных партый і арг-цый (кастр. 1917) выступіў з прамовай, у якой акрэсліў праграму і задачы далейшай паліт. дзейнасці, рашуча выказаўся за неадкладнае стварэнне «моцнай Рады», таму што на Беларусь «глядзяць як на кавалак зямлі, каторы можна разабраць». Віцэ-старшыня *Усебеларускага з'езда 1917*. У пач. 1918 працаваў у «Беларускай кнігарні», на аднаўленне якой ахвяраваў уласныя грошы. Удзельнічаў у стварэнні *Беларускай Народнай Рэспублікі* (БНР). З 25.3.1918 рэдактар газ. *«Беларускі шлях»*. Летам 1918 уступіў у *Беларускую сацыял-дэмакратычную партыю*. Восенню 1918, у час. ням. акупацыі Міншчыны, працаваў ва «Упраўленні Беларускай апекі», загадваў дзіцячымі прытулкамі і багадзельнямі. З прыходам бальшавікоў — кіраўнік аддзела грамадскай апекі і сац. забеспячэння Камісарыята сац. апекі. У жн.— кастр. 1919 в. а. заг. аддзела прытулкаў пры секцыі асветы і грамадскай апекі Мінскага магістрата. У часы польскай акупацыі ўзначаліў Бел. нац. к-т. 18.9.1919 на сустрэчы Ю. Пілсудскага з бел. паліт. і культурнымі дзеячамі выступіў з прывітальнай прамовай, у якой падзякаваў кіраўніку Польскай дзяржавы «за вызваленне Менску і Меншчыны ад новага цяжкага наезду маскоўскага імперыялізму, які гэтым разам прыбраўся ў шаты бальшавізму», выказаў надзею на падтрымку і добрыя стасункі польск. народа да беларусаў ў справе адбудовы «вольнай і незалежнай Беларускай Рэспублікі». 10—15.10.1919 у Вільні наладжваў кантакты па каардынацыі працы паліт. і культурных арг-цый Віленшчыны і Гродзеншчыны. 24.10.1919 увайшоў у склад *Беларускай вайсковай камісіі* (БВК). Перакладаў на бел. мову падручнікі па вайсковай справе, працаваў над стварэннем бел. вайсковага статута, выкладаў на курсах вербунковаагітацыйнай падкамісіі. Разам з З. Бядулем, Я. Купалам, М. Краўцовым складаў бел. жаўнерскія песні. У пач. 1920 арганізаваў выд-ва БВК, прымаў удзел у выданні час. «Рунь». У маі 1920 выязджаў у Варшаву па справах далейшай дзейнасці БВК. 9.7.1920 Г. пакінуў Мінск з адступаючымі польск. войскамі. Памёр у Кракаве, дзе і пахаваны на Ракавіцкіх вайсковых могілках.

Станаўленне і развіццё грамадска-паліт. і ідэйна-эстэт. поглядаў пісьменніка праходзіла ў рэчышчы агульнадэмакр. плыні бел. нац.-вызв. руху, асн. задачамі якога Г. лічыў вырашэнне нац. і сац. пытанняў. Ужо раннія творы (захаваліся ўрыўкі вершаў «Чаму так, скажэце, жывецца на свеце?», 1905; «Ах, мае паночкі...», 1907—08) вызначаюцца сац.-рэв. зместам і накіраванасцю. У 1912 працаваў над вершаванай п'есай «Дэпутат». У 1912—15 дэбютаваў як празаік апавяданнямі «Маладое», «Пан Шабуневіч», «Чалавек без крыві». Падрыхтаваў зборнік вершаў «Матчын дар», у які ўвайшлі вершы, напісаныя ім у 1907—14 (выд. летам 1918 за кошт Нар. сакратарыята БНР). Асн. сэнсавыя дамінанты зборніка — тэма роднага краю, адраджэння і раскняволення бел. народа, гіст. мінулае бацькаўшчыны, сац.-філас. праблематыка. Другі паэт. зб. «Новая песня» незакончаны. У вершах 1917—20 цэнтр. вобраз — маці-Беларусь. Перажываючы за лёс бацькаўшчыны, ахопленай агнём 1-й сусв. і грамадзянскай войнаў, выказаў веру ў гіст. перспектыву беларусаў стаць народам «моцным, вольным», у жыццёвасць нар. духу і нац. ідэі («Пажар», «Народ», «Кліч» і інш.), лічыў родную мову універсальнай выразніцай гэтай ідэі («Слонца», «Брацця, к агульнаму шчасцю...», «Ён не згіне», «Самсон»). Звяртаючыся да тэмы Беларусі і яе гіст. лёсу, паказаў драматызм і складанасць станоўішча бел. народа і яго інтэлігенцыі пасля кастр. падзей і грамадзянскай вайны («Беларускі марш», «Хвейнаму другу», «Шлюб», «Відзенне»). У шэрагу паліт. памфлетаў, фельетонаў і эпіграм, выкрываючы паспешнасць і валюнтарызм бальшавікоў у вырашэнні нац. пытання на Беларусі, паказаў сапраўдную сутнасць марксісцка-ленінскай нац. палітыкі, якая называла нац.-вызв. рух народаў былой Расійскай імперыі «сабатажам» («Сабатажнік», «Увагі да нацыянальнага руху»). Намаляваў сатыр. партрэт бальшавіцкага лідэра, асудзіў палітыку і метады бальшавіцкіх улад у справах зямельнай рэформы («Мы, Вялікі Ленін І і ІІ Ульянаў...»). Рашуча выступаў супраць «крэсавай палітыкі» Польшчы ў адносінах да бел. народа («Рэдактарскі сон», «Мана на 47-е апрэля», «Баданьне аб спосабах»). Перспектывы паліт., эканам. і духоўнага росквіту бел. народа звязваў з пабудовай уласнабел. дзярж. жыцця. Лют. рэвалюцыя, на яго думку, спрыяла шырокай арганізац. працы па згуртаванні бел. нац. сіл («Рэяльная палітыка»). Драматызм сац.-паліт. сітуацыі на Беларусі, у якой пасля кастр. падзей апынуўся бел. нац.-вызв. рух, на думку Г., быў абумоўлены адсутнасцю арганізаванага гар. пралетарыяту, крамнікаў, рамеснікаў і інш., а бел. нар. інтэлігенцыя пасля паражэння рэв. 1905—07 вымушана была адначасова ствараць новыя формы «дзярж.-нац. ладу» і гуртаваць нар. сілы пад сцягам нар. адраджэння, што аслабляла яе. Гэта вымушала бел. сацыялістаў «ісці ў кантакце з рускай рэвалюцыяй». Г.-палітык востра рэагаваў на празмерныя захады Варшавы і Масквы ў вырашэнні бел. пытання. Лічыў адной з галоўных задач БНР — канчатковае ўстанаўленне «дзяржаўных ста-

А. Гарун.

А. Гарун перад этапам у Сібір. Мінская турма. 6.11.1908. Дзяржаўны архіў Іркуцкай вобласці.

сункаў з Усходам», што дазволіла б «аддаць больш усілкаў і больш увагі (нашым) заходнім справам» («Незалежная Беларусь»). На яго думку, прыход да ўлады бальшавікоў запаволіў развіццё бел. паліт. і культурна-нац. руху. Лічыў неабходным стварыць самастойную бел. дзяржаву, дабіцца прызнання яе суверэнітэту бальшавіцкай Расіяй і краінамі Зах. Еўропы, стварыць нац. прадстаўніцтва як найбольш прыдатную ў сітуацыі 1919—20 дзяржаўную і арганізацыйную форму бел. нац. руху, паколькі Раду БНР і Народны сакратарыят як формы дзярж. кіравання назваў анахранізмамі «совдеповской» сістэмы («З цяжкім возам на гнілой грэблі»). Лічыў, што пабудове дзярж. бел. улады варта аддаваць перавагу нац.-творчаму пачатку, а не сацыяльнаму, «жыць уласным жыццём, без усялякай братняй апекі» («Одгукі» і інш.).

*Тв.:* Матчын дар: Думы і песні, 1907—1914. Мн., 1929; Матчын дар і іншыя творы. Нью-Ёрк; Мюнхен, 1962; Матчын дар: Думы і песні, 1907—1914 гг. Мн., 1918 (факс. выд. Мн., 1988); Уражэнні // Полымя. 1990. № 4; Публіцыстыка // Спадчына. 1991. № 1, 2; Сэрцам пачуты звон: Паэзія, проза, драматургія, публіцыстыка. Мн., 1991; І Беларусь-Маці долю ўгледзе... // ЛіМ. 1991. 26 ліп.; З цяжкім возам на гнілой грэблі // Там жа. 1991. 8 лістап.

*Літ.:* Багдановіч М. За тры гады // Зб. тв. Мн., 1968. Т. 2; Гарэцкі М. Гісторыя беларускае літаратуры. Вільня, 1920. С. 186—193; Карский Е. Ф. А. В. Прушинский // Карский Е. Ф. Белорусы. Пг., 1922. Т. 3, вып. 3; Шукевич-Третьяков Р. Любовь погубила // Звезда. 1922. 10 сент.; Бабарэка А. З літаратурных нататак // Узвышша. 1927. № 1; Барычэўскі А. І. «Матчын дар». А. Гаруна // Там жа. 1928. № 2; Клейнборт Л. Молодая Белоруссия. Мн., 1928. С. 282—291; Піятуховіч М. Нарысы гісторыі беларускае літаратуры. Мн., 1928. С. 168—180; Міцкевіч А. Пясьняр і патрыёт беларускага народу // Бел. газэта. 1942. 11 сак.; Кушаль Ф. Алесь Гарун // Там жа. 1943. 27 лістап.; Яго ж. Сорак два гады таму // Конадні. 1963. № 7; Ларчанка М. Творчасць Алеся Гаруна // Беларусь. 1945. № 5; Гурэвіч Э. С. Беларуская дзіцячая літаратура (1917—1967). Мн., 1970. С. 37—38; Ярош М. Р. Янка Купала і беларуская паэзія. Мн., 1971. С. 107—112, 130; Грынчык М. М. Фальклорныя традыцыі ў беларускай дакастрычніцкай паэзіі. Мн., 1969. С. 190—204; История белорусской дооктябрьской литературы. Мн., 1977. С. 451—452; Ярош М. Р., Бечык В. Л. Беларуская савецкая лірыка. Мн., 1979. С. 5, 12, 16; Казбярук У. У бурлівым віры // ЛіМ. 1981. 3 крас.; Яго ж. Цярністы шлях паэта // Там жа. 1987. 31 ліп.; Яго ж. Светлай волі зычны звон: Алесь Гарун. Мн., 1991; Латышонак А. Гарун // Ніва. 1985. 17 сак.; Рагойша В. Судьба поэта // Лит. газ. 1987. 8 апр.; Рагойша У. Этапы Алеся Гаруна // Полымя. 1990. № 7; Лойка А. Гісторыя беларускай літаратуры. Дакастрычніцкі перыяд. 2 выд. Мн., 1989. Ч. 2. С. 351—363; Гарбінскі Ю. З думаю ў сэрцы святою // Полымя. 1990. № 4; Яго ж. Дар Алеся Гаруна // Бел. мова і літ. ў школе. 1991. № 1, 11; Мазоўка Н. Паэт у няволі // Шляхам гадоў: Гіст.-літ. зб. /Уклад. Г. Кісялёў. Мн., 1990; Гарбінскі Ю., Жынкін А. Сібірскія дарогі беларускай гісторыі // Маладосць. 1992. № 3, 12; Szczebedew V. La Letteratura Bianko Rutena // L'Europa Orientale. Roma, 1923. № 1; McMillin A. B. Harun // McMillin A. B. Die Literatur der Weissrussen; A history of byelorussian literature. Giessen, 1977; Яго ж. Introduction // The images swarm free. London, 1982. P. 9—10, 12—15. *Ю. У. Гарбінскі.*

Р. С. Гарфункін.

С. А. Гарэлік.

**«ГАРУНЫ»**, група насельніцтва бел. паходжання на тэр. былога Пуціўльскага пав. Курскай губ. (цяпер Пуціўльскі р-н Сумскай вобл. Украіны). Супольнасць утварылася ў выніку перасялення бел. насельніцтва з палескіх раёнаў Чарнігаўшчыны і Браншчыны, што жылі ў бас. Дзясны і верхняга Дняпра. На пач. 1910-х гадоў налічвалася больш за 20 тыс. «Г.». Аснову супольнасці складалі ў мінулым т. зв. «манастырскія сяляне». Цяжкая праца на патрэбы манастыроў абумовіла назву «Г.» (ад слова «гаравацъ», г. зн. цяжка жыць). Рускія этнографы памылкова выводзяць паходжанне назвы ад слова «гарэць». На працягу пасляваен. перыяду «Г.» разглядаліся імі (В. В. Маўродзін, Л. М. Чыжыкава) як этнаграфічная група велікарусаў. У паселішчах «Г.» зафіксавана беларуска-ўкраінская планіроўка жылля. У склад традыц. жаночага строю ўваходзілі кашуля з прамымі полкамі, панёва-плахта і намітка.

*Літ.:* Чижикова Л. Н. Русско-украинское пограничье: история и судьбы традиционно-быт. культуры (XIX—XX вв.) М., 1988; Белорусы // Русская энциклопедия Спб., Б. г. Т. 3. *І. В. Карашчанка*

**ГАРФУ́НКІН** Рыгор Саламонавіч (б. 8.1920, мяст., цяпер г. п. Янавічы Віцебскага р-на — 22.9.1943), Герой Сав. Саюза (1944). З 1936 працаваў токарам на іголкавым з-дзе ў Віцебску. У Чырв. Арміі з 1940. У Вял. Айч. вайну з вер. 1941 на Паўн.-Зах., Варонежскім франтах. Удзельнік абароны Ленінграда, вызвалення Украіны. Разведчык танкавай брыгады радавы Г. вызначыўся ў баі за Дняпро на Кіеўшчыне. 22.9.1943 у складзе групы разведчыкаў пераправіўся цераз раку, група пранікла ў размяшчэнне праціўніка, выявіла сістэму абароны і агнявыя сродкі ворага. Вяртаючыся, Г. прыкрыў пераправу разведчыкаў. Загінуў, пераплываючы Дняпро. Яго імем названы вуліцы ў Віцебску і г. п. Янавічы. У Віцебску на будынку гал. корпуса прыборабудаўнічага з-да ўстаноўлена мемар. дошка.

**ГАРШЧО́К**, гліняная пасудзіна для гатавання гарачай стравы, захоўвання сыпучых рэчываў і інш. Рэгіянальныя асаблівасці Г. у іх выкарыстанні, формах, памерах і інш. замацаваліся ў мясцовых назвах (абеднік, адынец, варэйка, злівач, квартоўка, пецярык, пітушка, склепнік, спарыш, укладыш). Для вызначэння ўстойлівасці традыцый розных груп насельніцтва, часу іх існавання, этнічнай прыналежнасці помніка, спецыфікі культуры, генетычнай сувязі паміж асобнымі культурамі і інш. найважнейшае значэнне маюць форма, тэхналогія вырабу і арнаментацыя Г.

На Беларусі, як і ў іншых рэгіёнах, Г. вядомы з эпохі *неаліту*. Найбольш раннія Г. былі ляпнымі, мелі кавічнае тулава, шырокую шыйку, тоўстыя сценкі, дамешкі ў гліне раслінныя або з тоўчаных ракавін. Іх арнаментацыя бедная: ямкавыя ўцісканні, пракрэсленыя лініі, адбіткі грабеньчатых штампаў. У развітым і познім неаліце з'явіліся круглаі пласкадонныя Г., а сценкі сталі больш тонкімі, раслінныя дамешкі ў гліне саступаюць месца мінеральным (жарства, буйназярністы пясок). Арнаментацыя іх мела выгляд гарызантальных паясоў, утвораных ямкамі, наколамі, лініямі, грабеньчатым штампам, якія наносілі па ўсёй паверхні пасудзіны. У *бронзавым веку* вастрадонныя Г. знікаюць зусім, з'яўляюцца пасудзіны з шара- і яйкападобным тулавам (сярэднедняпроўская культура) або з пляскатым дніщчам (тшцінецкая, сосніцкая, прыбалтыйская, шнуравой керамікі і інш. культуры); у гліне толькі мінеральныя дамешкі. У эпоху ранняй бронзы большасць Г. арнаментавана «жамчужнымі» або ямка-

вымі ўціcканнямі, наколамі, насечкамі, наляпнымі валікамі, грабеньчатымі і «вусеневымі» адбіткамі, лініямі, згрупаванымі ў пэўныя камбінацыі. У заключны перыяд бронзавага веку арнамент наносілі пераважна ў верхняй частцы Г У *жалезным веку* пасудзіны мелі больш разнастайныя формы, удасканальвалася тэхналогія іх вырабу і з'яўляліся глянцаваныя Г. (зарубінецкая культура) Большасць пасудзін культур штрыхаванай керамікі, днепра-дзвінскай, зарубінецкай, кіеўскай, пражскай, калочынскай, банцараўскай мела плоскатае днішча (толькі Г. мілаградскіх плямен захоўвалі шара- і яйкападобную формы тулава). Да 5 ст н э. пераважалі пасудзіны з выразнай прафілёўкай тулава (мілаградская, паморская, зарубінецкая, позні этап штрыхаванай керамікі культуры), беднай арнаментацыяй венчыка і прылеглых да яго частак тулава або зусім без дэкору На познім этапе жал веку большасць Г. мела слабапрафіляваныя формы, арнаментацыя на іх амаль адсутнічае, у гліне часта з'яўляюцца дамешкі слюды. Са з'яўленнем у 10 ст. ганчарнага круга (гл. ў арт. *Ганчарства)* Г набываюць моцнапрафіляванае тулава, выразны венчык розных абрысаў больш тонкія сценкі, упрыгожаныя праразнымі лініямі або хвалістым арнаментам. У познім сярэднявеччы склаліся новыя віды апрацоўкі посуду — марэнне, паліванне, гартаванне і інш. У 14—18 ст. Г. ўпрыгожвалі наразным арнаментам, насечкамі, ямкамі, пальцавымі і пуансонавымі ўціcканнямі, грабеньчатым штампам У зах рэгіене пераважалі адна- і шматрадныя хвалі, нанесеныя трэсачкай або грабеньчыкам, ва ўсходнім — наколы, насечкі На працягу 16 ст Г набылі прысадзістую форму і на большасці тэр Беларусі яны не арнаментаваліся (гэта традыцыя захавалася толькі на Магілеўшчыне да канца 17 ст ) На працягу 18 ст. форма гліняных Г наблізілася да формы чыгунка, часам яны мелі 1—2 вушкі, накрыўку. У 19—20 ст. пашырыўся выраб гартаваных, чорназадымленых і паліваных Г

*Літ* Бобринский А А Гончарство Восточной Европы Источники и методы изучения М, 1978 Очерки по археологии Белоруссии Ч 2 Мн, 1972, Левко О Н. Витебск XIV—XVIII вв Мн, 1984

*А А Егарэйчанка, Н I Здановіч*

**ГАРЭ́ЛІК** Зіновій Самуілавіч [6(19) 11 1904, г. Асіповічы — 14.12.1968], Герой Сав Саюза (1943). З 1921 служыў у часцях асобага прызначэння, удзельнічаў у ліквідацыі бандаў. Пасля заканчэння Сімферопальскага камвну (1924) на парт. і сав. рабоце ў Крымскай вобл., потым у Чырв. Арміі. У Вял Айч. вайну з чэрв. 1941 на Паўд., Сталінградскім, Цэнтр., Бел франтах Камандзір стралк роты ст. лейтэнант Г вызначыўся 16.10.1943 пры вызваленні Лоеўскага р-на. Дэсантная група пад яго камандаваннем першая фарсіравала Дняпро, вызваліла в. Шчытцы, захапіла гармату, 2 кулямёты; да 18 кастр заняла ўмацаваны рубеж, перарэзала важную магістраль праціўніка, падбіла 2 танкі Да 1945 у Сав Арміі, капітан Яго імем названа вуліца ў г Асіповічы

Гаршчок 7—3 ст да н э з бескурганнага могільніка каля былой в Баравікі (цяпер у межах г Мазыра)

Паліваны гаршчок канца 16—1-й пал 17 ст з Чачэрска

Паліваны гаршчок сярэдзіны 17 ст з Мсціслава

**ГАРЭ́ЛІК** Саламон Аронавіч [24.6(7.7) 1913, Бабруйск — 22.10 1941], Герой Сав Саюза (1941) Працаваў токарам-інструментальшчыкам на з-дах Бабруйска і Ленінграда. У Чырв. Арміі з 1932. Скончыў Ленінградскую ваен школу авіяц тэхнікаў (1932) Удзельнік сав.-фінляндскай вайны 1938—40 У Вял Айч вайну з чэрв 1941 на Паўд -Зах фронце, пам. камандзіра роты танкавага палка, ваентэхнік 1-га рангу. Пад варожым агнем рамантаваў падбітыя танкі, удзельнічаў у баях як камандзір танка. 22 10.1941 у баі пад Белградам яго танк быў падбіты і загарэўся Экіпаж не пакінуў машыны і змагаўся да апошняга снарада. Загінуў у гэтым баі Пахаваны ў Белградзе ў брацкай магіле, там яго імем названа вуліца

**ГАРЭ́ЦКІ** Гаўрыла Іванавіч [28 3(10.4) 1900, в. Малая Багацькаўка Мсціслаўскага пав Магілёўскай губ, цяпер в Багацькаўка Мсціслаўскага р-на — 20. 11.1988], беларускі геолаг, географ, эканаміст, статыстык, дэмограф, дзеяч бел нац -культурнага руху. Акад АН БССР (1928), д-р геолага-мінералаг навук (1946) Засл. дзеяч навукі БССР (1972) Брат М. *Гарэцкага.* Скончыў Пятроўскую (Ціміразеўскую) с -г акадэмію (1924) У 1917—19 супрацоўнічаў з *Беларускай секцыяй студэнтаў Горацкага сельскагаспадарчага інстытута* У вер. 1922 арыштаваны органамі АДПУ у Маскве, праз месяц вызвалены Старшыня *Беларускай культурна-навуковай асацыяцыі* пры Пятроўскай сельскагаспадарчай акадэміі (1920—22) Адзін з ініцыятараў і аўтараў зб. «Маладая Беларусь» (1922, выйшаў 1 нумар). У 1924/25 навуч. г выкладаў эканам геаграфію на бел сектары Камуніст ун-та нац меншасцей Захаду ў Маскве З 1925 дацэнт кафедры эканам. геаграфіі Бел. с.-г акадэміі. З 1927 дырэктар Бел. НДІ сельскай і лясной гаспадаркі імя Леніна пры СНК БССР. Незаконна арыштаваны ў 1930, пазбаўлены звання акадэміка АН БССР, засуджаны ў 1931 да высылкі за межы Беларусі У 1931—41 працаваў у інжынерна-геалагічных экспедыцыях Гідрапраекта СССР. Датэрмінова вызвалены ў 1934. Быў арыштаваны ў 1937 і 1938 У 1941—42 гал. геолаг абарончых работ у Ржэве,Чарапаўцы У 1943—68 нам гал геолага, гал. геолаг у арг-цыях Гідрапраекта. Рэабілітаваны ў 1958. У 1965 адноўлены ў званні акадэміка АН БССР У 1969—85 заг аддзела (з 1977 лабараторыі) Ін-та геахіміі і геафізікі АН БССР. Займаўся статыстыкай, вывучаў дынаміку нар гаспадаркі БССР і гандлевы баланс, даследаваў бел. тэр.-гасп комплекс У 1922 у экспедыцыі Наркамзема БССР па Міншчыне і Мазыршчыне вывучаў вытворчыя сілы рэгіена. Удзельнічаў у раскопках верхнепалеалі-

сусв. вайны і рэвалюцыі ў Расіі паказаў драматызм становішча чалавека на фронце (зб. «На імперыялістычнай вайне», 1926), бежанца (п'еса «Жартаўлівы Пісарэвіч», 1925), глумленне чужынцаў над чалавечай і нац. годнасцю бел. народа («Усебеларускі з'езд 1917-га года», 1922), перасцерагаў ад антынацыянальнай сутнасці бальшавізму («Дзве душы»). Г.— прадаўжальнік, наватар летапісна-хранікальнага жанру («Камароўская хроніка», нап. 1930—32, 1937, апубл. 1966); у рамане-эпапеі на прыкладзе адной вёскі і аднаго сялянскага роду прадставіў панарамнае гісторыка-мастацкае палатно лёсаў сваёй «малой» радзімы і Бацькаўшчыны — Беларусі на працягу амаль паўтара стагоддзя — з канца 18 ст да сярэдзіны 1930-х гадоў. Паслядоўна праводзіў хрысціянска-этычны ідэал міру, чалавекалюбства, міласэрнасці, справядлівасці ў адносінах паміж людзьмі і народамі. Зрабіў выключна важкі ўклад у развіццё бел. гістарычнай і грамадскай думкі ўжо ў ранніх творах вылучаў праблемы духоўнага сталення нацыі, актывізацыі глыбінных гісторыка-культурных патэнцый беларусаў, росту іх нац. самасвядомасці, узнаўлення гіст. памяці, пераадолення комплексу нац. прыніжанасці («Наш тэатр», 1913, «Развагі і думкі», 1914). Абгрунтаваў грамадскае прызначэнне бел. л-ры, культуры, інтэлігенцыі, сфармуляваў звышзадачу культурна-адраджэнскіх сіл «падняць беларуса да ідэальнага чалавека», «аднавіць арганізм Беларусі і зрабіць яго дужэйшым». У «Гісторыі беларускае літаратуры» (Вільня, 1920, 4-е выд., Мн., 1926) даў сістэматызаваны, глыбока навуковы і адначасна шырока даступны аналіз тысячагадовага шляху беларускага прыгожага пісьменства — ад дахрысціянскай міфалогіі, стараж.-літаратурных помнікаў, асобных аўтараў (Ефрасіння Полацкая, Клімент Смаляціч, Кірыла Тураўскі, «Слова пра паход Ігаравы») да творчых набыткаў пач. 1920-х гадоў. Развіў палажэнні М. Багдановіча аб Адраджэнні як своеасаблівай заканамернасці гісторыка-культурнага працэсу на Беларусі, даў арыгінальную перыядызацыю развіцця л-ры, падкрэсліў станоўчае дачыненне бел. дзяржаўнасці ў эпоху ВКЛ да росквіту тагачаснага пісьменства, яго «залатога веку» (летапісанне, Статуты ВКЛ, творчасць Ф Скарыны С. Буднага, В. Цяпінскага, Л Сапегі, А Рымшы, К Чарнабыльскага, М Сматрыцкага, Ф. Еўлашоўскага і інш.), арганічную сувязь тагачасных гуманіст. традыцый з нац.-адраджэнскім духам новага часу. Крызіс, заняпад старабел л-ры тлумачыў слабасцю яе сац. грунту, павярхоўнай «вонкавай культурнасцю» мясцовай арыстакратыі, большасці шляхты, якія арыентаваліся на польскія духоўна-культурныя і рэлiг. ўзоры, стратай ВКЛ паліт. незалежнасці, абвостраным дагматычным процiборствам праваслаўнай і каталіцкай цэркваў на Беларусі, іх абыякавасцю, а часам і варожасцю да патрэб нац. культуры, мовы, «царкоўнаславянізацыяй» старабел. кніжнай мовы ў сувязі з перамяшчэннем з Вільні ў Кіеў (1-я пал. 17 ст) рэлігійна-культурнага асяродка. У захаванні культурна-моўнай самабытнасці адзначаў станоўчую ролю уніяцкай царквы, духавенства якой трымалася бел. мовы Г. раскрыў супярэчлівую эвалюцыю зараджэння і сталення новай бел л-ры (канец 18 — пач. 20 ст.) ад развіцця ва ўлонні польскай або рус. культуры да нац самасцвярджэння. Увасабленне гэтага працэсу — творчасць Я Баршчэўскага, Я. Чачота, А. Рыпінскага, аўтараў ананімных паэм «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе», В. Дуніна-Марцінкевіча, А. Вярыгі-Дарэўскага, Ф. Тапчэўскага і асабліва Ф. Багушэвіча, пачынаючы з якога бел. л-ра набыла выразнае нац. значэнне. Паказаў якасныя зрухі ў літаратурным і грамадска-культурным развіцці Беларусі ў «нашаніўскі» перыяд пасля рэвалюцыі 1905—07, ролю газ. «Наша доля» і асабліва «Наша ніва» ў выхаванні і кансалідацыі маладых літаратурных сіл, абуджэнні нац. і сац. свядомасці ў народзе, яднанні культурна-асветнай і паліт плыняў у рэчышчы бел. Адраджэння, змаганні з нападкамі на бел. рух палона-русафільскіх сіл і мясцовых рэнегатаў У шырокім сацыяльным і нацыянальна-адраджэнскім кантэксце даў аналіз творчасці пісьменнікаў-нашаніўцаў К. Каганца, Цёткі, Ядвігіна Ш., Я. Купалы, Я. Коласа, М Багдановіча, А Гаруна, З Бядулі, К. Буйло, А. Паўловіча і інш. У заключным раздзеле кнігі Г. разгледзеў творчасць Ц. Гартнага, А. Гурло, Я. Журбы, М. Грамыкі, Я. Неманскага, пісьменнікаў аб'яднання «Маладняк». Нягледзячы на абмежаванасць тагачаснай ідэалагізаванай эстэтыкі і спрошчаны падыход да л-ры як да «сродку класавага змагання», Г на прыкладзе творчасці У Дубоўкі зазначыў каштоўнасць сапраўднага мастацтва, незалежнага ад паліт кан'юнктуры, развіваемага «на шляху Я. Купалы і М. Багдановіча». Арганічнай састаўной часткай кнігі з'яўляецца раздзел, прысвечаны этнафілалагічным і гістарыяграфічным працам П. Бяссонава, Я Кар скага, І. Насовіча, М. Нікіфароўскага, Е Раманава, А Сапунова, П Шпілеўскага, П. Шэйна, М. Янчука; у ім падкрэслена роля навуковага беларусазнаўства ў развіцці л-ры Кніга Г. насычана багатай фактураю, арыгінальнымі прыкладамі з літ. першакрыніц, характэрная цэласным спалучэннем літаратуразнаўчых і гісторыказнаўчых задач, прасякнута нацыянальна-патрыятычным пафасам і высокім маст. густам Крыніцазнаўчым дапасаваннем да «Гісторыі...» стала складзеная Г. «Хрэстаматыя беларускае літаратуры. XI век — 1905 год» (Вільня, 1922). У публікацыях па гісторыі бел. кнігадрукавання, тэатра, па пытаннях вывучэння фальклору, творчых партрэтах Ф. Скарыны, В. Дуніна-Марцінкевіча, І. Луцкевіча, Л. Гмырака,

Пасведчанне карэспандэнта газ «Беларускія ведамасці» К Б Езавітава (Кастусенка) на беларускай і латышскай мовах, выпісанае М Гарэцкім. 1921

М Багдановіча, У Галубка, М Лынькова, у выступленні на Акадэмічнай канферэнцыі па рэформе бел правапісу і азбукі (1926) Г развіў шэраг гісторыка-культурных, літаратуразнаўчых праблем Ён актыўна падтрымаў культбудаўніцтва ў Сав Беларусі, аднак бачыў глыбокія супярэчнасці новага паліт ладу прымітыўнага, варожага духоўнасці і нацыянальнасці, мяшчанска-торбачнага рэвалюцыянарызму, ахопленага нажывай, клопатам «толькі аб пузе» (арт «Новая буржуазія», на рус мове, 1918), а таксама згубную для культуры партыйна-бальшавіцкую манаполію ва ўсіх сферах жыцця грамадства, фармальнае стаўленне афіцыйных улад да нац пытання, бел мовы Г — укладальнік шматлікіх слоўнікаў, займаўся перакладамі Творы яго выдадзены на рус, укр, літоўскай, латышскай, польскай і ням мовах

У в Багацькаўка музей Г Яго імем названы раенная б-ка ў Горках, вуліцы ў Мінску, Мсціславе, Горках, устаноўлены мемарыяльныя дошкі ў в Багацькаўка, у г Горках, Мінску

*Тв* Зб тв Т 1—4 Мн, 1984—86 Успаміны артыкулы дакументы / Склад А С Ліс, І У Саламевіч Мн 1984, Кароткі агляд беларускай літаратуры / Уступнае слова Т Голуб, пасляслоўе В Чамярыцкага // Полымя 1990 № 5, Творы / Пасляслоўе П В Васючэнкі М І Мушынскага Мн, 1990, Гісторыя беларускае літаратуры Мн, 1992 Скарбы жыцця // Полымя 1993 № 2

*Літ* А д а м о в і ч Ант Максім Гарэцкі // Узвышша 1928 № 1—6, А Н [Луцкевіч А] Абдзіраловіч і Барыка (Літ паралель) // Калосьсе 1939 Кн 1 (18), К л е и н б о р т Л М Максим Горецкий // Клейнборт Л М Молодая Белоруссия Мн, 1928 Б у г а е ў Дз Максім Гарэцкі Мн, 1968, С т а н к е в і ч С «Шматпакутныя творы» Максіма Гарэцкага // Гарэцкі М Выбраныя творы Ню Ёрк 1975 Т 3, Л у ж а н і н М Лес пісьменніка і твора // Лужанін М З ранку да вечара Мн 1978, А д а м о в і ч А «Браму скарбаў сваіх адчыняю » Мн, 1980, Д у б а в е ц С Арэол для класіка Над старонкамі збору твораў Максіма Гарэцкага // ЛіМ 1988 22 студз, Я г о ж Тлумачэнне Гарэцкага Эсэ // Звязда 1993 23 лют, Я г о ж Максим Горецкий Неюбилейное слово // Неман 1993 № 2, Р а г у л я А «Я не хварэю ўсясветнай жудои нудою » // Рагуля А Пафас станаўлення Мн, 1991, Першыя Гарэцкія чытанні (Тэз дакл і паведамл) Горкі, 1992 Гарэцкія чытанні Тэз дакл і паведамл Горкі, 1993 Г а р э ц к і Р Расстрэл Максіма Гарэцкага // ЛіМ 1992 9 і 16 кастр, Н а в у м е н к а І Высокі подзвіг // Там жа 1993 19 лют, К а в а л е н к а В Талент мужнасці // Чырвоная змена 1993 26 лют, К а з б я р у к У Мара пра вялікі сход // Голас Радзімы 1993 № 6, М у ш ы н с к і М Слова пра Максіма Гарэцкага // Культура 1993 29 сак, М а р ц і н о в і ч А «Ва ймя святога ўсім нам адраджэння» // ЛіМ 1993 26 лют Д а с а е в а Т М Летапіс жыцця і творчасці Максіма Гарэцкага Мн 1993 *А К Каука*

**ГАРЭ́ЦКІ** Радзім Гаўрылавіч (н 7 12 1928, Мінск), беларускі вучоны ў галіне геалогіі і геатэктонікі, грамадскі дзеяч Акад АН Беларусі (1977, чл-кар з 1972), замежны член Расійскай АН (1994), д-р геолага-мінералагічных навук (1969), праф (1980) Засл дзеяч навукі Беларусі (1978) Сын *Г І Гарэцкага* Скончыў Маскоўскі нафтавы ін-т (1952) З 1952 у Геалагічным ін-це АН СССР З 1971 заг аддзела агульнай і рэгіянальнай тэктонікі, у 1977—93 дырэктар Ін-та геахіміі і геафізікі АН Беларусі З 1992 віцэ-прэзідэнт АН Беларусі Навук даследаванні па тэктоніцы маладых і стараж платформ, стратыграфіі, літалогіі, палеагеаграфіі, геафізікі, геалогіі нафтавых, газавых і інш радовішчаў карысных выкапняў Выявіў Базайскае газавае радовішча ў Зах Казахстане Дзярж прэмія СССР 1969 за тэктанічную карту Еўразіі і манаграфію «Тэктоніка Еўразіі» (1966, у сааўтарстве), Дзярж прэмія БССР 1978 за распрацоўку тэктанічнай карты Беларусі і манаграфію «Тэктоніка Беларусі» (1976, у сааўтарстве) Аўтар артыкулаў пра Г і М Гарэцкіх З 1993 Прэзідэнт згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына», прэзідэнт Фонду імя братоў Луцкевічаў Старшыня Беларускага геалагічнага т-ва

Р Г Гарэцкі

*Літ* Р Г Гарецкий Биобиблиогр указ Мн, 1988

**ГАСЕЎСКІЯ,** Г а н с е ў с к і я, К о р в і н - Г а с е ў с к і я, польскі шляхецкі род герба «Слепаўрон» Паходзіць з маентка Госі ў Мазовіі У канцы 16 ст прадстаўнікі роду перасяліліся ў ВКЛ Мелі маенткі ў Ашмянскім, Смаленскім, Мсціслаўскім пав, на Падляшшы і ў Ломжынскай зямлі (Польшча)

Найбольш вядомыя прадстаўнікі роду

А л я к с а н д р (каля 1575—1619), сын Яна Рэгент дзярж канцылярыі пры канцлеры ВКЛ Л Сапегу (1596), рэферэндарый ВКЛ (з 1610), вял пісар ВКЛ (з 1615), ваявода смаленскі (з 1625), староста маркаўскі, пуньскі, купіскі У 1599 і 1600 пасол у Маскву У 1600 атрымаў памежнае Веліжскае староства У 1606 пасол да Лжэдзмітрыя І, схоплены падчас падзення апошняга ў Маскве, вызвалены ў 1608 Разам з Сапегам быў натхніцелем інтэрвенцыі ў Маскву, удзельнік аблогі Смаленска ў 1610 У 1611—13 з войскам Рэчы Паспалітай зноў быў у Маскве У 1617—18 удзельнічаў у другім паходзе каралевіча Уладзіслава на Маскву, у 1621—22 у вайне са шведамі за Інфлянты Заснаваў езуіцкія калегіумы ў Смаленску і Віцебску, кляштар брыгітак у Берасці (у ім пастрыглася яго дачка Ганна) Ад шлюбу з Евай Пац меў 4 сыноў і 3 дачок

К р ы ш т о ф (? — 1643), старэйшы сын Аляксандра Пераемнік бацькі на пасадах вял пісара ВКЛ (1625), старосты веліжскага (1627), ваяводы смаленскага (1639) У 1639—40 узначальваў пасольства ў Парыж

В і н ц э н т А л я к с а н д р (каля 1620—62), малодшы сын Аляксандра Вучыўся ў Італіі Стольнік ВКЛ (1646) крайчы (1648), генерал артылерыі (1651), падскарбі земскі і пісар (1652), гетман польны (1654) Пераемнік бацькі на пасадах старосты маркаўскага і пуньскага, брата Крыштофа на пасадзе старосты веліжскага, староста ашмянскі (ашменскі), ладзейскі, пашырвінцкі, адміністратар Алыцкай і Магілеўскай эканомій У час антыфеадальнай вайны 1648—51 удзельнічаў ва ўзяцці Пінска, аблозе Бабруйска, бітве пад Лоевам 1649 У час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 веў ваен дзеянні супраць рус войск у няўдалых кампаніях 1654 і 1655, падчас якіх канфліктаваў з вял гетманам ВКЛ Я Радзівілам Калі апошні перайшоў на бок шведаў, захаваў вернасць каралю Рэчы Паспалітай Яну Казіміру У 1656 перамог войска шведаў і Б Радзівіла ў бітве пад Простткамі, у 1657—58 веў кампаніі супраць шведскіх і рус войск, трапіў у рускі палон, вызвалены за некалькі месяцаў да смерці Ад шлюбу з Магдаленай з роду Канапацкіх меў дачок Тэрэзу (жонку Багуслава Служкі, потым Яна Сапегі) і Соф'ю (жонку Аляксандра Пжыемскага), сына Багуслава [1660(?) — 1744], які з 1722 быў біскупам-суфраганам беларускім, з 1724 біскупам смаленскім

Прадстаўнікі іншых галін роду Г вядомы як павятовая шляхта ў розных паветах ВКЛ і Польшчы да канца 18 ст

*Літ* B o n i e c k i A Herbarz Polski Warszawa, 1903 T 6 S 315—318

*В Л Насевіч*

**ГАСПАДА́Р**, тытул манарха ў ВКЛ, тое, што *вялікі князь*

**«ГАСПАДАР»**, беларускі народны каляндар, які выдаваўся ў 1943—44 у Кенігсбергу на бел мове Усходнепрускім галіновым філіялам Імперскага землеробчага выд-ва па заказу акупац улад генеральнай акругі Беласток і Беларускага аб'яднання ў Беластоку Адказны рэдактар М Альтгаер Аўтарамі большасці публікацый з'яўляліся прадстаўнікі ням адміністрацыі Друкаваў матэрыялы пра сістэму адм і гасп кіравання ў Беластоцкай акр, дзейнасць

Бел аб'яднання, барацьбу з партызанамі, рэкламаваў прадукцыю герм. прадпрыемстваў. На старонках «Г.» змяшчаліся с.-г. парады, бел. фальклор, вершы Н. Арсеневай, М. Багдановіча, К. Буйло і інш. Выйшлі 2 нумары *С У Жумар*

**ГАСПАДА́РСКІ СУД,** вялікакняжацкі суд, вышэйшы суд ВКЛ. Дзейнічаў у складзе вял. князя і паноў рады або толькі паноў рады. Склад Г. с. законам не быў рэгламентаваны, але на практыцы ў якасці засядацеляў абавязкова павінны былі прысутнічаць радныя паны. Іх колькасць не вызначалася (2—3 чал., 20—30 і болей), залежала ад важнасці справы, месца і часу пасяджэння, сацыяльнага і службовага становішча істца і адказчыка На правах Г с. дзейнічалі соймавы і камісарскі суды. Першапачаткова соймавы суд праводзіўся вял. князем і панамі радай у час соймаў Паводле Статута ВКЛ справы ў соймавым судзе разглядалі паны рада і 8 дэпутатаў сойма. Закон таксама вызначаў справы, падлеглыя гэтаму суду. Камісарскі суд не быў пастаянным, а ўтвараўся вял. князем і панамірадаю для разгляду адной ці некалькіх канкрэтных спраў, часцей за ўсе па спрэчках аб зямельнай уласнасці або павіннасцях жыхароў пэўнай мясцовасці Рашэнне камісарскага суда падлягала зацвярджэнню вял. князем і панамірадаю. Да сярэдзіны 16 ст. падсуднасць спраў Г. с. была даволі шырокай. Першапачаткова кожная справа магла разглядацца ў гэтым судзе па 1-й або 2-й інстанцыі. Кожны вольны чалавек меў права звярнуцца ў гэты суд з іскам або скаргай. Першыя абмежаванні падсуднасці спраў Г. с. былі ўведзены Статутам ВКЛ 1529, які прадпісваў разглядаць справы спачатку ў мясцовых судах Канчаткова інстанцыйны парадак разгляду спраў быў уведзены Статутам 1566. Паводле Статута 1588 Г с па 1-й інстанцыі былі падсудны справы па дзярж злачынствах, паісках да шляхты аб выпатрабаванні дзярж. маенткаў і зямель, аб прыналежнасці да саслоўя шляхты, паісках, што закраналі інтарэс казны, па скаргах на незаконныя дзеянні вышэйшых службовых асоб Да ўтварэння Гал. суда (гл. *Трыбунал Вялікага княства Літоўскага*) у 1582 Г с былі падсудны ўсе справы па апеляцыйных скаргах на пастановы вышэйшых судоў

*Літ* Леонтович Ф И Суд господарей и их советников в Великом княжестве Литовском до и после Люблинской унии // Журн Мин-ва юстиции 1909 № 6, 1910 № 2, Юхо I Крыніцы беларуска-літоўскага права Мн, 1991 *І А Юхо*

**ГАСПАДА́РЧЫЯ СУДЫ́,** органы судовай улады на Беларусі, якія разглядаюць спрэчкі ў галіне эканам адносін паміж усімі ўдзельнікамі гасп дзейнасці, незалежна ад форм уласнасці. Створаны на падставе прынятага 5.6.1991 Закону «Аб гаспадарчым судзе ў Беларускай ССР» у сувязі з пераходам да рыначных адносін у эканоміцы замест органаў дзяржаўнага арбітражу. Сістэму Г. с Беларусі складаюць Вышэйшы Г. с. і Г. с абласцей рэспублікі. Старшыня Вышэйшага Г. с., 1-ы намеснік і намеснікі выбіраюцца Вярх. Саветам Беларусі бестэрмінова, суддзі назначаюцца бестэрмінова Прэзідыумам Вярх. Савета. Суддзі Г. с абласцей назначаюцца таксама бестэрмінова Прэзідыумам Вярх. Савета па прадстаўленні Старшыні Вышэйшага Г с Беларусі Апошняму належыць права заканадаўчай ініцыятывы ў Вярх. Савеце Г с. забяспечваюць абарону правоў і інтарэсаў суб'ектаў гаспадарання, падрыхтоўку прапаноў па ўдасканаленні гасп. заканадаўства, садзейнічаюць прававымі сродкамі выкананню заканадаўства і папярэджанню парушэнняў законнасці ў эканам адносінах Закон гарантуе незалежнасць і недатыкальнасць суддзяў Г. с. Для разгляду важнейшых пытанняў дзейнасці Г. с. дзейнічае Пленум Вышэйшага Г. с., які дае тлумачэнні па пытаннях гасп. заканадаўства на тэр Беларусі. *І І Марціновіч*

М Ф Гастэла.

А І Гасціловіч.

**ГАСТЭ́ЛА** Мікалай Францавіч (6.5.1907, Масква — 26.6.1941), Герой Сав. Саюза (1941) Яго бацька — ураджэнец Беларусі У Чырв Арміі з 1932 Удзельнік баёў на р. Халхін-Гол у 1939, сав.-фінляндскай вайны 1939—40. У пач. Вял. Айч. вайны капітан Г камандаваў эскадрылляй З 22 6 1941 удзельнічаў у бамбардзіроўцы танк. і механізаваных калон праціўніка Першы варожы самалет збіў 24.6.1941 з зямлі (з кулямета свайго бамбардзіроўшчыка, экіпаж «юнкерса» быў узяты ў палон). 26.6.1941 у час бамбардзіроўкі варожай танкавай калоны на дарозе Маладзечна — Радашковічы з членамі экіпажа лейтэнантамі штурманам А. А Бурдзенюком, стралком Р М. Скарабагатым і стралкомрадыстам ст. сяржантам А А Калініным накіраваў ахоплены полымем самалет на скопішча варожых танкаў, аўтамашын і бензацыстэрнаў, нанес праціўніку вял страты Імя Г навечна занесена ў спісы авіяпалка. На месцы подзвігу, на шашы Мінск — Вільнюс, помнік-мемарыял экіпажу, у г. п. Радашковічы, у г. Мураме, Сухумі, а таксама на радзіме бацькі (Карэліцкі р-н) і на тэр. Варашылаўградскага вышэйшага авіяц. аучылішча штурманаў устаноўлены помнікі, на будынку школы № 370 Масквы, у якой вучыўся Г.,— мемарыяльная дошка. Яго імем названы калгасы і саўгасы, завод, фабрыка, акіянскае судна, сухагруз, цеплаход, шахта, плошча, вуліцы ў Беларусі, Расіі, Казахстане, паселкі ў Сахалінскай і Магаданскай абл Члены экіпажа пасмяротна ўзнагароджаны ордэнамі Айч. вайны 1-й ступені.

**ГАСЦІЛО́ВІЧ** Антон Іосіфавіч [25.10(7 11).1902, б. фальварак Пянькоўшчына, цяпер Ашмянскага р-на — 23.11.1975], генерал-палкоўнік (1959), д-р ваен навук (1957), праф. (1959). У Чырв. Арміі з 1919 У гады грамадз. вайны ўдзельнічаў у ліквідацыі белагвардзейскіх паўстанняў ва Уфімскай і Арэнбургскай губ. і баях з басмачамі ў Туркестане. Потым камандзір падраздзяленняў, працаваў у штабе дывізіі і штабе Укр. ваен. акругі. Скончыў Ленінградскую пях. школу (1924), ваен. акадэміі імя Фрунзе (1931), Генштаба (1937) З 1935 камандзір стралк. палка, з 1938 ст. выкладчык Ваен. акадэміі Генштаба. У 1939 нач. штаба 1-й арм групы сав. войск у МНР. У Вял. Айч. вайну нач. штаба, камандуючы 17-й арміяй Забайкальскага фронту, з ліст 1943 камандзір корпуса, камандуючы арміяй на 1-м і 4-м Укр франтах. Удзельнік Корсунь-Шаўчэнкаўскай аперацыі, баёў у Карпатах, вызвалення Польшчы, Чэхаславакіі. У 1945—65 камандуючы арміяй, пам. камандуючага ваен. акругай, нач. кафедры, нам нач. Ваен. акадэміі Генштаба, кансультант акадэміі.

**ГАСЦІ́НЫ ДВОР,** комплекс збудаванняў і плошча ў горадзе ці мястэчку, дзе гандлявалі і часова пражывалі купцы і захоўваліся іх тавары Узніклі ў перыяд ранняга феадалізму, былі пашыраны ў 13—19 ст. Звычайна будаваліся ў цэнтры населенага пункта на адкрытай плошчы, дзе адбываўся штодзенны гандаль, а ў

вызначаныя дні года — кірмашы. Канструкцыя і выгляд Г. д. (простыя драўляныя павецці, драўляныя ці каменныя крамы, каменныя, жалезныя ці шкляныя павільёны з асобнымі пакоямі для захоўвання і рэалізацыі тавараў і інш.) залежалі ад багацця горада (мястэчка) З 13 ст. вядомы Г. д. ў Віцебску, з 14 ст.— у Гродне, Брэсце, Слоніме і інш. беларускіх гарадах. У Гродне Г. д размяшчаўся на чатырохвугольнай плошчы, забудаванай з усіх бакоў мяснымі і хлебнымі радамі, крамамі У 16—17 ст. у Гродне было ўжо 3 Г. д. 2 у правабярэжнай частцы, 1 за Нёманам У Брэсце Г. д. знаходзіўся ў замкавай частцы горада, у 2-й пал 17 ст ён быў перанесены ў новы цэнтр, на востраў (пазней цытадэль Брэсцкай крэпасці), дзе знаходзіліся ратуша і крамы. У Мінску ў 16 ст. Г. д былі ў трох месцах на Траецкай гары, Ніжнім (Старым) рынку, на Высокім рынку. У Магілёве ў 16—17 ст. Г. д знаходзіўся каля гарадской ратушы, тут размяшчаліся шавецкі, рыбны, жалезны, мясны, палатняны, саляны, пекарскі, ганчарны, кавальскі гандлёвыя рады, купецкі дом, важніца, шынок, складскія памяшканні, гарадская лазня, пастрыгальня і інш. будынкі. У 1-й пал. 19 ст. большасць гарадоў і гандлёвых мястэчак Беларусі мелі Г. д. У 15—16 ст. спецыяльныя Г. д. для купцоў з Беларусі і Літвы існавалі ў Бранску, Вязьме, Маскве і інш рускіх гарадах.

*Літ* Белоруссия в эпоху феодализма Сб документов и материалов Т 1—3 Мн, 1959—61 *В В Швед*

**ГА́ТАВА,** веска ў Навадворскім сельсавеце Мінскага р-на. За 15 км на Пд ад Мінска 6101 ж., 152 двары (1993)

Упершыню ўпамінаецца ў 1567 як веска, уладанне М. Служкі, у Менскім пав. ВКЛ У 1600 цэнтр маентка, бабровыя гоны на р Свіслач, у 1667 — уласнасць каталіцкай царквы, 21 дым, вадзяны млын. У 1791 веска, уласнасць Мінскага кляштара бернардзінцаў, 123 дымы, 3 карчмы. Пасля далучэння да Расіі (1793) у Мінскай губ. У 1815 258 ж., 33 двары, у панскім двары драўляная уніяцкая царква Ушэсця Св. Духа. У 1858 — дзярж. уласнасць, 130 душ мужч. полу. У 1870 веска Самахвалавіцкай вол., 315 ж., 50 двароў, у 1897 450 ж. (232 мужчыны і 218 жанчын), 77 двароў, кузня, нар. вучылішча (адкрыта ў 1864), жаночая царкоўнапрыходская школа, хлебазапасны магазін, карчма, драўляная Святадухаўская царква (пабудавана ў 1887, не збераглася). У 1908 641 ж., 98 двароў, у 1917 — 757 ж., 122 двары. У час грамадз. вайны ў вёсцы і наваколлі дзейнічаў партыз. атрад (камандзір І. В. Маслыка). З 20.8.1924 у Самахвалавіцкім р-не (да 1927 цэнтр сельсавета), 18.3.1931 уключана ў межы г. Мінска, з 26.5.1935 у Мінскім р-не. У 1929 створаны калгас «Чырвоны партызан».

П М Гаўрылаў.

У канцы чэрвеня 1941 акупіравана ням - фаш. захопнікамі. Вызвалена 2.7.1944 воінамі 110-й і 385-й стралк дывізій 50-й арміі 2-га Бел. фронту. Пры адступленні фашысты спалілі большую частку дамоў і грамадскіх будынкаў. З 16.5.1954 Г. зноў цэнтр сельсавета, з 5.3.1959 у Навадворскім сельсавеце Мінскага р-на. У вёсцы з-ды другаснай перапрацоўкі чорных і каляровых металаў, першаснай апрацоўкі скур, фабрыка ачысткі гатунковага насення гародніны, аддзяленне «Сельгастэхнікі» саўгаса «Світанак», сярэдняя школа, амбулаторыя, 2 дзіцячыя сады, 4 крамы, 2 дамы быту. Забудоўваецца шматпавярховымі дамамі Помнік землякам, брацкая магіла сав. воінаў і партызан, што загінулі ў гады Вял Айч. вайны.

*Літ* Акты, издаваемые Виленскою археографическою комиссиею Вильна, 1887 Т 14 С 355—364 *Г А Маслыка*

**ГАЎРЫ́ЛАЎ** Петр Міхайлавіч [17 (30).6. 1900, в. Альведзіна Пестрачынскага р-на Татарскай АССР — 26.1.1979], адзін з кіраўнікоў *Брэсцкай крэпасці абароны 1941,* Герой Сав. Саюза (1957) Працаваў на парахавым з-дзе ў Казані, у час Кастр. рэвалюцыі ўдзельнічаў у штурме Казанскага крамля З 1918 у Чырв. Арміі. Удзельнік баёў супраць войск Калчака, Дзянікіна, ліквідацыі белагвардзейскіх бандаў на Кубані і ў Дагестане. Скончыў камандныя курсы ў Махачкале (1923), Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1939). Удзельнік сав.-фінляндскай вайны 1939—40, устанаўлення Сав. улады ў Латвіі. З сакавіка 1941 камандзір палка, які размяшчаўся ў Брэсцкай крэпасці. У Вял. Айч. вайну камандзір 44-га палка 42-й стралк. дывізіі маёр Г. амаль месяц узначальваў абарону Усх. форта Брэсцкай крэпасці. 23.7.1941 цяжка паранены ў непрытомным стане трапіў у палон, вызвалены сав. войскамі ў маі 1945. Да 1946 у Чырв. Арміі. Дэп Вярх. Савета СССР у 1958—62. Ганаровы грамадзянін Брэста. Пахаваны ў Брэсце на гарнізонных могілках, на магіле пастаўлены помнік. Яго імем названа вуліца ў Брэсце.

**ГАЎРЫЛЁНКА** Максім (Максімільян, каля 1797, в. Глушынцы Мінскага пав., цяпер Дзяржынскі р-н — пасля 1862), удзельнік вызваленчага руху 1830-х гадоў на Беларусі і ў Польшчы. Паходзіў з прыгонных сялян памешчыка Ваньковіча. У 1824 здадзены памешчыкам у рэкруты. У час *паўстання 1830—31*, знаходзячыся на службе ў царскай арміі, перайшоў на бок паўстанцаў, удзельнічаў у іх дзеяннях у раёне Белавежскай пушчы. Пасля паражэння паўстання з корпусам ген. Рамарына перайшоў у Галіцыю (у той час Аўстрыйская імперыя) Вясной 1833 удзельнічаў у партыз экспедыцыі Ю. Заліўскага з Галіцыі ў Каралеўства Польскае, вылучаўся ўмельствам даходліва гаварыць з сялянамі Схоплены на Люблінішчыне. У паказаннях заявіў, што паўстанцы змагаліся «каб не было паноў, каб селянін меў свой грунт і нікому за яго не плаціў, каб забраны край адняць ад расіян і далучыць да Польшчы». Паводле прысуду ваеннага суда ў Варшаве жорстка пакараны шпіцрутэнамі (тройчы прапушчаны праз строй 500 салдат) і сасланы на катаргу ў Сібір. Адбываў пакаранне у Нерчынскай акрузе, у 1856 знаходзіўся у Шылцы (цяпер горад у Чыцінскай вобл.). У 1859 вярнуўся ў родную вёску дзе над ім устаноўлены паліцэйскі нагляд. У 1860 прыпісаны да мінскіх мяшчан, але жыў па-ранейшаму ў Глушынцах, займаўся падзённымі заробкамі

*Літ* L i m a n o w s k i B Szermierze wolności Krakow, [1911], Z a l e w s k i L Z dziejow partyzantki r 1833 w województwie Lubelskiem Lublin, 1934, Społeczeństwo polskie i proby wznowienia walki zbrojnej w 1833 r Wrocław etc , 1984

*Г В Кісялеў*

**ГАЎРЫ́ЛІК** Язэп Емяльянавіч [25.3 (6.4).1893, в Калодчына Вілейскага пав Віленскай губ., цяпер Вілейскі р-н — 8.12 1937], дзеяч рэвалюцыйнага і нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі. Скончыў Віленскую двухкласную настаўніцкую школу (1911), Барунскую настаўніцкую семінарыю (1914) Працаваў настаўнікам царк.-прыходскай школы, псаломшчыкам у царкве ў Ковенскай губ. Пасля выступлення на настаўніцкім з'ездзе ў Браславе (студз. 1919) з крытыкай вышэйшага духавенства звольнены з пасады псаломшчыка як «вораг царквы і духавенства». З 1920 на радзіме. Скончыў кароткатэрміновыя бел настаўніцкія курсы ў Вільні. Далучыўся да бел нац. культурнай і паліт дзейнасці, прыхільна ставіўся да ідэі Бел. Нар. Рэспублікі. У 1921—22 настаўнічаў на Ашмяншчыне. У 1922 адзін з заснавальнікаў Радашковіцкай бел. гімназіі імя Ф. Скарыны, дзе выкладаў бел. мову і спевы, удзельнічаў у рабоце Т-ва бел. школы. З 1925 член Бел сялянска-работніцкай грамады. У 1927 за адмову супрацоўнічаць з польскай дэфензівай пазбаўлены пасады настаўніка гімназіі як палітычна ненадзейны. Вясной 1928 абраны дэпутатам у польскі сейм па спісе рабоча-сялянскага адзінства Адзін са стваральнікаў і старшыня рэв.-дэмакр. і нац.-вызв. арг-цыі *«Змаганне»* У маі 1930 пасля чатырох прапаноў і адмовы Г. без заявы паводле рашэння

ЦК КПЗБ быў залічаны ў члены Кампартыі Зах. Беларусі. У жн. 1930 арыштаваны польскімі ўладамі як «дзяржаўны злачынца» і прыгавораны да 9,5 года зняволення. Пакаранне адбываў у віленскай турме У выніку абмену палітвязнямі з вер 1932 у СССР. Жыў у Мінску, працаваў заг. сектара Нар. камісарыята асветы. 1.9.1933 арыштаваны органамі НКУС БССР па справе «Беларускага нацыянальнага цэнтра». 9.1.1934 паводле пастановы судовай калегіі АДПУ прыгавораны да вышэйшай меры пакарання, якая заменена 10 гадамі пазбаўлення волі Тэрмін пакарання адбываў на Салавецкіх астравах (Архангельская вобл ), будаўніцтве Беламорска-Балтыйскага канала 25.11.1937 паводле пастановы тройкі УНКУС па Ленінградскай вобл. прыгавораны да расстрэлу. Расстраляны 8. 12 1937. Рэабілітаваны па абодвух прыгаворах 18.4.1956 Ваен. трыбуналам Бел. ваен акругі

*Літ* Годы испытаний и мужества Мн, 1973, Муха-Мухновский Г М Пути-дороги Мн, 1973 *У І Адамушка*

**ГАЎСМАН** Міхаіл Антонавіч (1817—89), беларускі гісторык, краязнавец, археолаг. З дваран. Скончыў Мазырскую гімназію (1834). З 1841 працаваў у Мінскай дэпутацкай дваранскай зборні, у 1850—63 сакратар яе канцылярыі. У 1863 за ўдзел у рэв. арг-цыі высланы ў Вільню, потым у Валагодскую губ У 1867 паводле царскага маніфеста яму дазволілі жыць у Варшаве. З 2-й пал. 1870-х гадоў жыў у Мінску. Калекцыяніраваў прадметы старажытнасці, археал раскопак, побыту беларусаў, манеты, пячаткі, медалі У адным са сваіх дамоў у Мінску арганізаваў хатні музей, дзе дэманстраваліся прадметы з праведзеных ім археал. экспедыцый у Навагрудку, Заслаўі, Уздзе, Мар'інай Горцы, Слуцку. Дапамагаў яму ў зборах бацька Я. Лучыны — Люцыян Неслухоўскі. З 1880 калекцыі выстаўляліся на арганізаваных ім выстаўках. У «Минских губернских ведомостях» у 1877—78 апублікаваў шэраг гісторыка-краязнаўчых нарысаў пра Заслаўе, Мар'іну Горку, Мір, Навагрудак, Слуцк, Узду і інш., у 1877 — «Гістарычны нарыс мястэчка Турава, былой сталіцы ўдзельнага Тураўскага княства». Галоўнай задачай Г. лічыў прыцягненне увагі навук грамадскасці да вывучэння захавання помнікаў старажытнасці і напісання гісторыі адметных у мінулым гарадоў і мястэчак. Аўтар рукапіснага нарыса «Гістарычны вопіс губернскага горада Мінска і губерні» (вядомы як «рукапіс Гаўсманскі»).

*Літ* Каханоўскі Г А Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў XVI—XIX стст Мн, 1984, Денисов В Н К истории одной неопубликованной книги // Книга в Белоруссии Мн, 1988 *Г А Каханоўскі*

**ГАХО́ВІЧ** Сямен Сафронавіч [2(14). 2 1856, в. Паручына Навагрудскага пов — ?], беларускі рэвалюцыянер-народнік З сям'і святара У час вучобы ў Мінскай духоўнай семінарыі пазнаёміўся з народніцкімі ідэямі і ўвайшоў у склад

*Я Е Гаўрылік.*

нелегальнага гуртка. Ва ўспамінах А. Я. *Багдановіча* ён названы ў ліку «піянераў сацыялістычнай прапаганды» ў Мінску Пасля заканчэння семінарыі (1878) паступіў на юрыдычны ф-т С-Пецярбургскага ун-та. Летам 1879 з дапамогай знаёмых рэвалюцыянераў набыў вял колькасць забароненай літаратуры (у т. л. брашуры «Казка пра капейку», «Нарысы фабрычнага жыцця», 16 экз. газеты *«Вперед!»*, усе нумары «Листка «Земли и воли» — друкаванага органа прыхільнікаў палітычнай барацьбы, да якіх належаў сам) і прывез яе ў Мінск з намерам распаўсюдзіць у народніцкім гуртку, што дзейнічаў у духоўнай семінарыі. Аднак кіраўнікі гуртка, верныя прапагандысцкаму кірунку ў народніцтве, адмовіліся ад прывезенай літаратуры, якая не адпавядала іх поглядам. Г. пачаў ствараць новы гурток у складзе семінарыстаў М. Сеўрука, В. Кязевіча, А Радзялоўскага, Сасяноўскага і гімназіста І Урбанскага, але па даносу апошняга гурток быў разгромлены жандарамі. Г. ўдалося схавацца, а затым уцячы за мяжу. Жыў у Баварыі, Швейцарыі. У 1881 атрымаў дазвол вярнуцца на радзіму, са студз 1882 жыў у в Паручына ў бацькі пад тайным наглядам паліцыі. Неўзабаве па ініцыятыве мясцовага духавенства супраць яго было ўзбуджана новае дазнанне, спыненае ў ліп. 1882 з-за адсутнасці доказаў. Восенню 1883 прыняты ў Казанскі ун-т. У 1890 вызвалены з-пад нагляду. Далейшы лёс невядомы.

*Літ* Титлинов Б В Молодежь и революция Из истории рев движения среди учащейся молодежи духовных и сред учеб заведений, 1860—1905 гг 2 изд Л, 1925, Віткоўскі Я Рэвалюцыйныя гурткі 70 гг на Беларусі // Полымя 1929 № 4, Самбук С М Революционные народники Белоруссии (70-е — начало 80-х годов XIX в ) Мн, 1972, Лосинский Н Б Революционно-народническое движение в Белоруссии, 1870—1884 гг Мн, 1983, Ліпскі У Пісьмы з Санкт-Пецярбурга // Чырв змена 1988 25 кастр *М Б Ласінскі*

**ГАЦЬ**, грэбля, шлях, пракладзены ў нізкім балоцістым месцы, часта з мастамі і пераходамі цераз ручаіны і рэкі. Патрабавала вял. увагі, асабліва ў час інтэнсіўнага руху гаспадарчых грузаў, пасажырскіх экіпажаў і перамяшчэнняў войск. Аснову Г. складаў насціл з галля. На балоцістых мясцінах Г. будавалі зімой, на дрыгвяністых балотах замест Г узводзілі масты на па́лях (на 20—50 см па-над балотам). Г. адыгрывалі важную ролю ў гасп. і грамадскім жыцці ВКЛ. Статут ВКЛ падрабязна рэгламентаваў, дзе і якія павінны быць дарожныя збудаванні, у т. л. і Г., хто павінен рабіць і рамантаваць іх. Уладальнікі маенткаў, на чыіх землях былі масты і Г., за іх карыстанне спаганялі з людзей «грэбельнае», «маставое» і іншыя пабоpы, але і адказвалі матэрыяльна за стан дарожных збудаванняў. Калі па віне уладальніка Г затапляліся чужыя землі, ён павінен быў плаціць пацярпеламу страты. У сярэдзіне 19 ст. ў Мінскай губ. толькі на паштовых і ваенна-гандлевых дарогах (даўж. 3912 верст) налічвалася 420 мастоў і 1522 Г. Па неабсяжных балотах, асабліва на Палессі, Г. цягнуліся часам на дзесяткі верст. Такія Г. злучалі, у прыватнасці, Азяраны з Тонежам і Дзякавічамі (Мазырскі пав.), Здзітаў з Холмскам і Драгічынам (Брэсцкі пав.) і інш. З усталяваннем індустрыяльных форм дарожнага будаўніцтва і паўсюднай меліярацыяй Г. як рукатворныя штучныя збудаванні страцілі практычнае значэнне.

*В С Цітоў*

**ГАШКЕ́ВІЧ** Іосіф Антонавіч (1814, Мінскі пав.— 5 10.1872), дыпламат, вучоны-мовазнавец, даследчык Японіі і Кітая, натураліст, арыенталіст. З сям'і святара Скончыў Мінскую духоўную семінарыю, Пецярбургскую духоўную акадэмію (1839). У 1839—49 у складзе Рускай духоўнай місіі ў Пекіне. Даследаваў культуру Кітая, вывучаў кітайскую, карэйскую і японскую мовы Адначасова займаўся пытаннямі астраноміі і метэаралогіі, сабраў калекцыю насякомых У якасці драгамана (перакладчыка) суправаджаў на фрэгаце «Палада» дыпламат місію Я В Пуцяціна ў Японію (1852—55). З яго ўдзелам заключаны руска-японскі дагавор 1855 Па дарозе з Японіі захоплены ў палон англічанамі (з прычыны Крымскай вайны 1853—56), знаходзіўся ў Ганконгу, потым у Англіі. У 1856 вярнуўся ў Расію. У 1858—65 першы расійскі консул у Японіі (у Хакадатэ), адначасова выкладаў у Хакадацкай рускамоўнай школе Адзін з першых іншаземцаў, якому дазволілі наведаць унутр. Японію, у т. л. двор сегуна (правіцеля Японіі) ў Эда (цяпер Токіо). У 1865 з сям'ёй вярнуўся на радзіму. У 1867 выйшаў у адстаўку і жыў у маентку Малі (цяпер Астравецкі р-н), дзе працягваў займацца ўсх філалогіяй Шматлікія калекцыі флоры і фаўны Паўд. Афрыкі і Паўд.-Усх. Азіі, сабраныя ў час падарожжаў, Г перадаў Заалагічнаму музею АН у Пецярбургу

ларусі

Геапаліт становішча Беларусі зведала значную эвалюцыю са старажытнасці да нашага часу. Яго адметнымі рысамі з'яўляліся знаходжанне бел. зямель у геаграфічным цэнтры Еўропы, на водападзеле Чорнага і Балтыйскага мораў, скрыжаванні гандлёвых шляхоў, наяўнасць разгалінаванай сістэмы рэк і азёр; адсутнасць натуральных абарончых рубяжоў (горных масіваў ці марскіх прастораў). У спалучэнні з прысутнасцю практычна па ўсім перыметры рассялення беларусаў ваяўнічых суседзяў, моцных ваен дзяржаў геапаліт. становішча Беларусі абумоўлівала са стараж. часоў пастаянныя ваенна-паліт канфлікты за яе тэрыторыі. Пры гэтым бел. дзяржаўныя ўтварэнні *(Полацкае княства, Вялікае княства Літоўскае)* былі не толькі аб'ектамі захопніцкіх памкненняў суседніх і больш аддаленых дзяржаў, але і самі з'яўляліся актыўнымі суб'ектамі міжнар. дыпламатыкі і ваен. палітыкі ва Усх Еўропе. ВКЛ у 14—17 ст. было вымушана весці абаронча-наступальную барацьбу з Польшчай і Тэўтонскім ордэнам на З, з Маскоўскай дзяржавай на У, з Турцыяй і Крымскім ханствам на Пд, Швецыяй на Пн. У гэтай барацьбе Беларуска-Літоўская дзяржава неаднаразова аб'ядноўвалася з адными дзяржавамі супраць іншых (уніі з Польшчай, Швецыяй, Расіяй), што адбівалася на геапаліт. і геастратэгічным становішчы Беларусі. Са стварэннем Рэчы Паспалітай знікла ваен. пагроза з боку Польшчы і гал. небяспека засталася з боку Маскоўскай Русі Знясіленае войнамі з Масквой ВКЛ не здолела супрацьстаяць паланізацыі. Своеасаблівай адзнакай геастратэгічнага становішча Беларусі была значная колькасць умацаваных пасяленняў і замкаў, за што яе ў сярэдняевеччы называлі «краінай замкаў» Праз кожныя 20—30 км стаялі ўмацаваныя гарады і мястэчкі, пад абарону якіх у час частых і разбуральных войнаў 15—18 ст збіралася мясц. насельніцтва. Падзелы Рэчы Паспалітай і *далучэнне Беларусі да Расійскай імперыі* (канец 18 ст ) радыкальна змянілі геапаліт. становішча бел. зямель. У складзе распасцертай на вял еўразійскай прасторы Рас. імперыі Беларусь была вымушана абслугоўваць вялікадзярж. інтарэсы самадзяржаўя, выконваючы ролю зах. фарпоста і стратэгічнага плацдарма Расіі для прасоўвання на З, у Еўропу. Самы кароткі шлях з З на Маскву пралягаў праз Беларусь, якая павінна была затрымліваць ворага на подступах да Расіі. Гэта прадвызначыла трагічны лёс Беларусі ў 19 — 1-й пал. 20 ст., калі ўсе іншаземныя нашэсці на Расію з З пракочваліся па бел. тэрыторыі (вайна 1812, 1-я і 2-я сусв войны).

Гедзімін.

У складзе Расійскай імперыі, а потым СССР бел землі былі надзейна прыкрыты з Пн, Пд і У, адкуль ім не пагражаў узброены напад, але платай за такую бяспеку былі ліквідацыя бел. дзяржаўнасці і русіфікацыя У час 1-й сусв вайны Беларусь была зонай стратэгічнага супрацьстаяння Германіі і Расіі З мэтай паслаблення Расійскай імперыі герм. ўлады ажыццяўлялі на акупіраванай тэрыторыі абмежаваную падтрымку бел. нац. руху. Падзеі 1918—24 адлюстравалі хуткую пераменлівасць геапаліт. становішча Беларусі, якая з'ўлялася разменнай манетай у руках буйных і невялікіх суседніх дзяржаў (абвяшчэнне Беларускай Народнай Рэспублікі, два пракламаванні Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, стварэнне Літоўска-Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, падзелы Беларусі паводле Брэсцкага міру 1918 і Рыжскага мірнага дагавора 1921, дагавораў Сав. Расіі з Літвой і Латвіяй, уваходжанне БССР у склад СССР, два ўзбуйненні БССР). 2-я сусв. вайна прынесла чарговы ўсплеск актывізацыі палітыкі вял дзяржаў вакол Беларусі, вынікам чаго зноў сталі шматлікія пераносы пагранічных слупоў на межах краіны (уз'яднанне Зах Беларусі з БССР, перадача Літве Віленскага краю і інш. раенаў БССР, акупацыя Беларусі фаш. Германіяй, вызваленне Беларусі і вяртанне яе ў склад СССР, перадача Польшчы Беластоцкай вобл. і часткі Белавежскай пушчы). Пасля 2-й сусв. вайны Беларусь апынулася ў акружэнні выключна сацыяліст. рэспублік РСФСР, УССР, Літоўскай і Латвійскай ССР, а таксама Польскай Народнай Рэспублікі Германія, якая двойчы акупіравала Беларусь у сусв. войнах, была разбіта і падзелена Але ў складзе СССР Беларуская ССР па-ранейшаму павінна была абслугоўваць вялікадзяржаўныя, геапаліт. інтарэсы агульнасаюзнага цэнтра. Рэспубліка знаходзілася ў знешнепалітычнай паўізаляцыі і была адлучана ад Польшчы непранікальнай мяжой. На працягу перыяду «халоднай» вайны Беларусь уваходзіла ў другі пасля Польшчы, ГДР і Чэхаславакіі стратэгічны эшалон абароны СССР у яго канфрантацыі з Захадам *Беларуская ваенная акруга* была адной з наймацнейшых у ваен сістэме СССР, на Беларусі знаходзіліся міжкантынентальныя балістычныя ракеты, тактычная ядзерная зброя і найноўшае звычайнае ўзбраенне На пач 1990-х гадоў узровень мілітарызацыі Беларусі быў самы высокі ў СССР і Еўропе Заканчэнне «халоднай» вайны і распад СССР карэнным чынам змянілі геапаліт сітуацыю вакол суверэннай Рэспублікі Беларусь Яна знаходзіцца ў суседстве з новымі незалежнымі дзяржавамі Расіяй, Украінай, Літвой, Латвіяй, а таксама Польшчай. Важным фактарам геапаліт. становішча краіны з'яўляецца аб'яднаная Германія з яе традыц інтарэсамі на У Еўропы. Паводле еўрапейскіх стандартаў Беларусь можа лічыцца сярэдняй па тэрыторыі і насельніцтве краінай. Гарантыяй незалежнага развіцця рэспублікі ў сучасных умовах з'яўляецца яе інтэграцыя ў міжнар сістэме бяспекі.

*У Е Снапкоўскі*

**ГЕДЗІМІ́Н,** Гедымін (у пісьмовых крыніцах Кгидимин, Кгедимин, Скиндимин, Jedimin, Gedimont, Giedymin, каля 1275—1341), вялікі князь ВКЛ [1316—41] У сучаснай гіст літаратуры падаецца як брат вял. князя *Віценя*, аднак больш верагодна, што Г быў яго сынам, пра што сведчыць Іпацьеўскі летапіс, называючы Г Вітуневічам У час княжання Г фактычна завяршыўся мірны працэс аб'яднання асноўнага масіву бел зямляў ад Зах Буга да Дняпра, што вызначала іх дамінуючую ролю ў ВКЛ Асабліва важнае значэнне ў дзяржаве зноў набыла *Полацкая зямля*, чым найперш і тлумачыцца перанос сталіцы ВКЛ з Навагрудка ў Вільню, якая была, паводле археал і пісьмовых крыніц, заснавана крывічамі. З 1070-х гадоў яна была цэнтрам Віленскага ўдзела Полацкага княства, а да пач 14 ст ператварылася ў буйны цэнтр і важны камунікацыйны вузел У пач 1320-х гадоў Г аднавіў наступальную палітыку палачан у адносінах да Пскова і Ноўгарада, што прывяло да першых у гісторыі бел -маскоўскіх супярэчнасцей. Двойчы пасылаў на дапамогу Пскову ў яго барацьбе з крыжакамі войска на чале з *Давыдам Гарадзенскім*, які перамог ворагаў у 1322 і 1323 У барацьбе з Лівонскім ордэнам абапіраўся на саюз з Рыгай, з якой меў цесныя гандлевыя сувязі Полацк Г вёў барацьбу з сепаратысцкімі настроямі ў балцка-літоўскіх землях ВКЛ, у 1315, калі яшчэ не быў вял князем, знішчыў кн. Пялюзу, які на працягу многіх гадоў, абапіраючыся на падтрымку жамойцкіх старшын, змагаўся супраць велікакняжацкай улады Паколькі крыжацкія ордэны сваю агрэсію супраць ВКЛ апраўдвалі справай пашырэння хрысціянства

сярод язычнікаў, Г. у 1323—24 рабіў заходы, каб ахрысціць у каталіцтва язычніцкае насельніцтва княства, але, убачыўшы адмоўныя адносіны да гэтага праваслаўных, якія складалі большасць насельніцтва краіны, і язычніцкай Жамойці, адмовіўся ад свайго намеру. Для больш паспяховай барацьбы супраць агрэсіі крыжакоў, якая была аднолькава небяспечнай і для ВКЛ, і для Польшчы, Г. у 1325 заключыў дагавор з польск. каралем Уладзіславам І Лакеткам, за яго сына Казіміра аддаў замуж сваю дачку *Альдону* (Ганну). У 1322 такое ж пагадненне было заключана з мазавецкім князем. У 1326 ВКЛ заключыла мір з Ноўгарадам і лівонскімі немцамі і, сканцэнтраваўшы свае ваенныя сілы, разам з Польшчай перайшло да актыўнага наступлення супраць Тэўтонскага ордэна. Войскі княства ў 1326 на чале з Давыдам Гарадзенскім і ў 1327 на чале з сынам Г. *Альгердам* нанеслі сакрушальныя паражэнні Брандэнбургу, які быў саюзнікам ордэна. Г. клапаціўся пра ваеннае ўмацаванне сваей дзяржавы, яго ініцыятыве прыпісваюць будаўніцтва замкаў у Вільні, Троках, Медніках, Крэве, Лідзе і інш., ен запрашаў рамеснікаў, гандляроў, адукаваных людзей з еўрап. краін на сталае жыхарства ў ВКЛ, што ў значнай ступені садзейнічала культурнаму росту дзяржавы. Пры Г. была ўтворана незалежная ад Маскоўскай Русі асобная літ.-бел. праваслаўная мітраполія з цэнтрам у Навагрудку. Першы вядомы мітрапаліт Феафіл. Г. загінуў у баі з крыжакамі пры аблозе ням. крэпасці Баербург. У гіст. літаратуры апошнім часам сустракаюцца звесткі са спасылкай на чэшскія крыніцы, што Г. быў атручаны пры спробе ў другі раз ахрысціць у каталіцтва язычнікаў пры дапамозе чэшскіх святароў, а пад Баербургам нібыта загінуў старэйшы сын Г.— *Вітаўт*.

*Літ.:* Антонович В. Б. Очерк истории Великого княжества Литовского до половины XV столетия. Вып. 1. Киев, 1878; Любавский М. К. Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно. 2 изд. М., 1915; Ермаловіч М. І. Па слядах аднаго міфа. 2 выд. Мн., 1991. С. 44—51; Никжянтайтис А. Гедиминас // Вильнюс. 1990. № 4.
*М. І. Ермаловіч*

**ГЕДЗІМІНАВІЧЫ,** дынастыя вялікіх князеў і палітычных дзеячаў ВКЛ, Венгрыі, Чэхіі, вяльмож Рускай дзяржавы. Карысталіся рознымі гербамі. На пячатцы *Гедзіміна* была выява анела. Старэйшы брат і папярэднік Гедзіміна *Віцень* спачатку карыстаўся пячаткай з выявай герба *«Калюмна»*, а стаўшы вял. князем ВКЛ, прыняў герб *«Пагоня»*, які стаў гербам ВКЛ і пераходзіў у дынастыі па спадчыне разам з годнасцю вял. князя. Іншыя Г., найбольш буйныя ўдзельныя князі, мелі свае гербы. Родапачынальнік, мяркуецца, Скалмант (Скаламенд). Найменне дынастыя атрымала ад Гедзіміна, пры якім ВКЛ стала магутнай дзяржавай. Пры ім і яго нашчадках ВКЛ вяло барацьбу з *Тэўтонскім ордэнам*, з *Маскоўскім вялікім княствам* за пайд. і ўсх. княствы Кіеўскай Русі, у якіх удзельнымі князямі Гедзімін звычайна ставіў сваіх сыноў. Адзін з іх, вял. князь ВКЛ *Ягайла*, заключыўшы Крэўскую унію 1385, стаў каралем польскім і заснавальнікам дынастыі *Ягелонаў*. У 14 ст. большасць Г., якія да гэтага былі язычнікамі, перайшлі ў праваслаўе, іншыя — у каталіцтва, засвоілі беларускую культуру. У 1447—1572 гаспадарылі ва ўмовах *асабістай уніі* ВКЛ і Польшчы. Пры вял. князю ВКЛ *Вітаўце* Вялікім перамогай у *Грунвальдскай бітве 1410*, заключэннем *Тарунскага міру 1411* і *Мельнскага дагавора 1422* скончыліся войны ВКЛ з Тэўтонскім ордэнам, да ВКЛ былі далучаны частка земляў Паўн. Прычарнамор'я, *Смаленскае княства*. Вітаўт і яго пераемнікі ў працэсе цэнтралізацыі дзяржавы пазбаўлялі ўлады ўдзельных князеў. Некаторыя з іх ад'язджалі ў Маскву, дзе сталі родапачынальнікамі княжацка-баярскіх родаў. У 14—15 ст. Г. запрашалі княжыць у Пскоў і Ноўгарад. Яны былі ў сваяцкіх адносінах з Пястамі ў Польшчы і *Рурыкавічамі*. Жыгімонт Карыбут, родам Г., быў адным з кіраўнікоў гусіцкага руху ў 1420—30-х гадах у Чэхіі. З Г. вылучыліся *Альгердавічы*, галіна вялікакняжацкай дынастыі ВКЛ, а таксама, паводле Ю. Вольфа, княжацкія роды. Хаванскіх, Карэцкіх, Галіцыных, Куракіных, *Бельскіх, Алелькавічаў*, Пінскіх, *Чартарыйскіх*, Трубяцкіх, Заслаўскіх, Кобрынскіх, Мсціслаўскіх, Курцэвічаў, *Сангушкаў*.

*Літ.:* Wolff J. Ród Gedimina. Kraków, 1886; Яго ж. Kniaziowie litewsko-ruscy od końca czternastego wieku. Warszawa, 1895; Chodynicki K. Geneza dynastji Giedymina // Kwartalnik Historyczny. 1926. Z. 4; Klaupa Z., Matulevičius A. Gediminaičiai (paveikslas). Kaunas, 1989; История родов русского дворянства. Кн. 1—2. М., 1991.
*А. М. Нарбут*

**ГЕДРО́ЙЦ** Рамуальд Тадэвуш (7.2.1750, Бобчын Браслаўскага пав. Віленскай губ.— 15.10.1824), удзельнік нац.-вызв. паўстання 1794. Паходзіў з княжацкага роду. У 1765 кадэтам уступіў у 2-і пяхотны полк ВКЛ. На баку *Барскай канфедэрацыі* змагаўся пад Гроднам, Моўчаддзю (1769), Бездзежам (1771), у бітве пад Сталовічамі (1772) быў паранены. З 1778 намеснік каменданта брыгады літ. гусараў, пасол на Гродзенскі сойм (1784). Удзельнічаў у падрыхтоўцы паўстання 1794, чл. *Найвышэйшай Літоўскай рады*, адзін з бліжэйшых паплечнікаў яе кіраўніка *Я. Ясінскага*. Пазней змагаўся на тэр. Курляндыі, атрымаў чын ген.-лейтэнанта, узнагароджаны ганаровым пярсценкам «Айчына свайму абаронцу». Пасля паражэння паўстання на тэр. ВКЛ з 5-тысячным атрадам прыбыў у Варшаву і прымаў удзел у яе абароне. Пад Радошыцамі (Польшча) трапіў у палон. Праз некалькі месяцаў выехаў у Парыж, дзе ўвайшоў у склад Польскай дэпутацыі, па даручэнні якой у 1796 прыбыў у Жэмайцію для падрыхтоўкі паўстання. Пасля раскрыцця змовы ўцек у Саксонію. Перапісваўся з Т. Касцюшкам, які знаходзіўся ў ЗША, вітаў яго вяртанне ў Парыж. У час Варшаўскага герцагства чл. Ваеннага камітэта (1812), пазней яго старшыня. 12.2.1813 пад Сераковам (Польшча) разам з сынам Юзафам трапіў у палон і быў высланы ў Архангельск. Амаль праз 2 гады вярнуўся ў Варшаву і ўступіў у армію Каралеўства Польскага ў чыне ген. дывізіі, чл. Ваеннага камітэта.

*Літ.:* Mościcki H. Dzieje porozbiorowe Litwy i Rusi. Wilno, 1913. T. 1. S. 387, 420—428; Ogiński M. Mémoires sur la Pologne et les polonais depuis 1788 jusqu'à la fin de 1815. Paris, 1826. T. 2. S. 103.
*Н. К. Мазоўка*

**ГЕДРО́ЙЦЫ,** княжацкі род, прадстаўнікі якога займалі высокія дзярж., царкоўныя і вайсковыя пасады ў ВКЛ. Карысталіся гербам «Ружа» (на залатым полі чырвоная ружа). Паводле генеалагічнай легенды, род Г. паходзіў ад князя Гедруса, прадстаўніка дынастыі Кітаўрусаў, што панавала ў Літве перад *Гедзімінавічамі*. У гіст. крыніцах Г. ўпершыню ўпамінаюцца ў 1399, калі яны вялі судовую спрэчку з віленскім біскупам. У 1431—33 шэраг дзярж. актаў быў змацаваны подпісамі князеў Войнуса, Гагуліса і Ягайлы Г. поруч з подпісамі інш. прадстаўнікоў літ. знаці. Радавой вотчынай Г. з'яўляўся маентак Гедройцы ў Віленскім пав. У 15 ст. род Г. разгалінаваўся, а ў 16 ст. налічваў некалькі дзесяткаў прадстаўнікоў, якія выходзілі на вайну асобнай харугвай. Многія Г. ўпамінаюцца ў крыніцах без княжацкага тытула, што сведчыць пра здрабненне роду. Найбольш вядомыя прадстаўнікі роду:

Матэвуш (Мацвей; каля 1500—1563), сын Балтрамея (?—1524), дзяржаўца кернаўскі і мейшагольскі, намеснік віленскі ў сярэдзіне 16 ст. З 1562 у якасці гаспадарскага маршалка ўваішоў у склад Рады ВКЛ. Меў 4 сыноў: Мельхіера, Каспера, Жыгмунда і Марціна. У 1528 з братам Крыштофам ставіў у войска 8 коннікаў.

Мельхіер [1536(?)—1609], сын Матэвуша, кусташ віленскага капітула, біскуп жамойцкі з 1574.

Марцін [каля 1550 (?) — 1621], сын Матэвуша, староста абельскі з 1586, вількамірскі з 1589, бельскі з 1616, ваявода мсціслаўскі з 1617.

Юрый (?—1619), сын Пятра, падсудак вількамірскі з 1598 і суддзя земскі вількамірскі з 1607.

Марцыян (?—1649), сын Уладзіслава, падстолі полацкі з 1613, падсудак віленскі з 1624 і суддзя земскі віленскі з 1647.

Арнольф (? — пасля 1656), сын Януша, мечнік пінскі з 1641, чашнік пінскі ў 1650 і войскі пінскі ў 1656.

*Літ.:* Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy od końca czternastego wieku. Warszawa, 1895. S. 65—76.
*В. Л. Насевіч*

**ГЕДРО́ЙЦЬ** (Giedroyć) Міхал Ян Генрык (25.1.1929, б. маентак Лобзаў Слонімскага пав., цяпер Зэльвенскі р-н), англійскі гісторык. Скончыў Лонданскі ун-т (1951). У 1940 разам з маці і сёстрамі дэпартаваны ў Сібір. У 1942 эвакуіраваўся з Польскай арміяй ген.

В. Андэрса ў Іран. З 1947 у Англіі. Працаваў у авіяц. прам-сці, чытаў лекцыі па аэрадынаміцы ў Саўгемптанскім ун-це. Адначасова даследаваў гісторыю ВКЛ. Аўтар прац аб увядзенні хрысціянства на Беларусі і ў Літве, паліт. становішчы апошніх у 13—14 ст., Крэўскай уніі 1385, каментарыяў да англ. перакладу «Хронікі Быхаўца».

*Тв.:* The Arrival of Christianity Lithuania // Oxford Slavonic Papers. 1985—89. Vol. 18, 20, 22. *А. В. Мальдзіс.*

**ГЕДЭМА́Н** Ота Магнусавіч (29.4.1887, в. Мнішчызна Рэчыцкага пав. Мінскай губ.—16.5.1937), беларускі гісторык, краязнавец, прыродазнавец, педагог. З сям'і меліяратара. Скончыў гімназію у Гомелі. Выключаны з гісторыка-філалагічнага ф-та Кіеўскага ун-та за ўдзел у рэв. руху. З 1922 працаваў настаўнікам у школе ў Браславе. З 1928 у Вільні. Збіраў матэрыялы па гісторыі Браслаўшчыны, вывучаў магдэбургскае права, развіццё гандлю і раместваў, сац. структуру і маемасныя адносіны насельніцтва ў бел. гарадах сярэдняга Падзвіння, лясныя промыслы і водныя шляхі на Беларусі 17—18 ст., гісторыю Белавежскай пушчы. Даследаваў гісторыю гарадоў Беларусі, падзяляў іх на 3 катэгорыі: адм.-судовыя, павятовыя або ваяводскія (Вільня, Браслаў, Віцебск, Полацк і інш.), гарады з прывілеямі самакіравання, развітым гандлем і абарончымі функцыямі ў мінулым; прыватнаўласніцкія гарады і мястэчкі з цэнтрамі духоўнай культуры (Глыбокае, Мядзел, Паставы і інш.). Выдаў кнігі пра Дзісну, Друю, Глыбокае, Браслаў, Браслаўскі пав., напісаў 1-ы раздзел кнігі па гісторыі школы піяраў у Лужках, пра корпус кадэтаў у Нясвіжы, асобныя мясціны Падзвіння.

*Тв.:* Historja powiatu Brasławskiego. Wilno, 1930; Dawne puszcze i wody. Wilno, 1934; Dzisna i Druja. Magdeburskie miasta. Wilno, 1934; Głębokie (Szkic dziejów). Wilno, 1935; Graff Manuzzi. Wilno, 1935; Szkoły Walerjanowskie x.x. pijarów łużeckich. Wilno, 1937. *Г. А. Кахано́ўскі.*

**ГЕЙ** Канстанцін Веньямінавіч (жн. 1896, Пецярбург — 25.2.1939), савецкі парт. дзеяч. У Кастр. рэвалюцыю 1917 і грамадз. вайну старшыня Пскоўскага губвыканкома, сакратар Пскоўскага губкома РКП(б). З 1922 заг. арганізацыйнага аддзела Паўн.-Зах. бюро ЦК РКП(б). З 1923 сакратар Свярдлоўскага губкома, з 1925 заг. арганізацыйнага аддзела ЦК ВКП(б), чл. Выканкома Прафінтэрна. З 31.1.1930 да 18.1.1932 1-ы сакратар і чл. Бюро ЦК КП(б)Б. З 1932 сакратар Маскоўскага к-та ВКП(б). З 1934 упаўнаважаны Камісіі сав. кантролю пры СНК СССР па Узбекістане, з 1937 па Горкаўскай вобл. Канд. у чл. ЦК ВКП(б) у 1924—34. Чл. ЦВК БССР у 1930—32. На пасадзе 1-га сакратара ЦК КП(б)Б прымаў актыўны ўдзел у барацьбе супраць т. зв. «нацдэмаўшчыны», пры ім былі фальсіфікаваны працэс па справе створанага ў нетрах ДПУ т. зв. *«Саюза вызвалення Беларусі»*, праследаваўся нар. паэт Беларусі Я. Купала, які зрабіў спробу самагубства. Прыгавораны да расстрэлу 25.2.1939. Рэабілітаваны ў 1956.

Я. Гейштар

*Літ.:* Страницы истории Компартии Белоруссии: суждения, аргументы, факты. Мн., 1990. *М. Ф. Шумейка.*

**ГЕ́ЙДЭНШТЭЙН** (Heidenstein) Рэйнгольд [каля 1556 (магчыма, 1553), Кенігсберг (паводле інш. крыніц Суленчын каля Гданьска) — 24.12.1620], нямецкі і польскі храніст, дыпламат, юрыст. З 1566 вучыўся ў Кенігсбергскім, з 1571 у Вітэмбергскім, потым Падуанскім ун-тах. Сакратар прускага кн. Фрыдрыха Альбрэхта, з 1582 — вял. князёў літ. і каралёў польскіх Стэфана Баторыя і Жыгімонта III Вазы. Карыстаўся даверам канцлера Рэчы Паспалітай Я. Замойскага, пад уплывам якога ў 1591 перайшоў з лютэранства ў каталіцтва. Выконваў адказныя дыпламат. місіі, займаўся кадыфікацыяй законаў. Служба ў каралеўскай канцылярыі дала магчымасць Г. азнаеміцца са шматлікімі дзярж. сакрэтамі, гіст. крыніцамі, дазволіла добра арыентавацца ў справах Рэчы Паспалітай і сумежных краін. У канцы 1612 па стану здароўя пакінуў пасаду, займаўся гісторыка-літ. працай. Пісаў на латыні. Аўтар «Запісак пра Маскоўскую вайну (1578—1582)» («De bello Moscovitico...», 1584, рус. пер. 1889). У рэдагаванні, а магчыма, і ў напісанні гэтай працы прымалі ўдзел Баторый і Замойскі. Твор — храналагічнае апісанне падзей заключнага перыяду Лівонскай вайны 1558—83, напісаны на падставе дакумент. крыніц, звестак непасрэдных удзельнікаў, шэрага прысвечаных гэтай вайне прац. Аўтар падрабязна апісаў аблогу і штурм Полацка войскамі Баторыя і інш. ваен. падзеі на Беларусі ў 1579—80, паказаў рабаўніцтва, жахі і пакуты насельніцтва. Праца дае магчымасць меркаваць пра адносіны да ваен. падзей з боку розных груповак правячых колаў Рэчы Паспалітай, рабіць высновы пра дзейнасць той ці інш. асобы. Г. абараняў палітыку Баторыя і Замойскага, ставіўся да іх з яўнай сімпатыяй. Разам з тым у працы ёсць крытычныя заўвагі ў бок некаторых асоб краіны (з партыі Збароўскіх). Гэта прывяло да таго, што пасля смерці Баторыя, на Варшаўскім сейме 1587, выказваліся патрабаванні знішчэння працы Г. «Запіскі...» — важная крыніца вывучэння адносін паміж Рус. дзяржавай і Рэччу Паспалітай у часы Лівонскай вайны і ўнутрыпаліт. становішча Беларусі ў гэты час.

*Тв.:* Pamiętniki o wojnie moskiewskiej. T. 1—6. Lwów, 1894.

*Літ.:* Nehring W. O życiu i pismach Reinholda Heidensteina // Nehring W. O historykach polskich XVI wieku. Poznań, 1862. Cz. 1. *В. С. Касмылеў.*

**ГЕ́ЙШТАР** (Gieysztor) Аляксандр (н. 17.7.1916, Масква), польскі гісторык. Бацька Г. паходзіў са шляхецкага роду (в. Ізбішча Барысаўскага пав., цяпер Лагойскі р-н). Г. вучыўся ва ун-тах Варшавы і Парыжа. У 1946—89 праф., дэкан гіст. ф-та Варшаўскага ун-та, адначасова ў 1980—91 дырэктар каралеўскага замка ў Варшаве. Член (з 1972) і старшыня (1980—90) Польскай акадэміі навук, член многіх акадэмій Еўропы. Член кіраўніцтва (1965) і старшыня (1980—85) Міжнар. к-та гіст. навук. Выкладаў і з'яўляецца ганаровым доктарам у буйнейшых ун-тах Еўропы. Даследуе еўрап., у т. л. польскае, сярэднявечча, гісторыю гарадоў і культуры Рэчы Паспалітай, вывучае спец. гіст. дысцыпліны.

*Тв.:* Władza Karola Wielkiego. Warszawa, 1938; Geuera wypraw Krzyżowych. Warszawa, 1950; Zarys dziejów pisma łacinskiego. Warszawa, 1973; Mitologia Słowian. Warszawa, 1982.

**ГЕ́ЙШТАР** Якуб (Якуб Казімір Станіслаў) Станіслававіч [6(18).4.1827, маентак Мядэкшы Ковенскага пав., цяпер Кедайнскі р-н Літвы — 3(15).11.1897], удзельнік паўстання 1863—64 на Беларусі і ў Літве, ліберальны публіцыст. З дваран. Вучыўся ў Віленскім дваранскім ін-це, Пецярбургскім ун-це (1844—48). У якасці члена Ковенскага губернскага камітэта ўдзельнічаў у выпрацоўцы ўмоў сялянскай рэформы, у 1859 надрукаваў за мяжою публіцыстычную брашуру «Голас шляхціца да сваіх сабратаў пра сялянскую свабоду і ўласнасць». З пач. 1860-х гадоў адзін з кіраўнікоў памешчыцкай партыі *«белых»* у Літве і на Беларусі. У лют. 1863 узначаліў паўстанцкі *Аддзел кіраўніцтва правінцыямі Літвы*, выступаў супраць К. Каліноўскага і інш. рэв. дэмакратаў, якія намагаліся павярнуць паўстанне на шлях аграрнай рэвалюцыі. 31.7.1863 арыштаваны, высланы спачатку ва Уфу, потым вернуты для новага следства і сасланы на катаргу ў Сібір. З 1873 у Варшаве, займаўся антыкварыятам. Аўтар «Успамінаў 1857—1865 гадоў», якія з'яўляюцца каштоўнай крыніцай па гісторыі паўстання 1863—64. Пачаў працаваць над імі яшчэ ў ссылцы, галоўная праца была зроблена ў 1873—74 у Варшаве, канчаткова завершана пад канец жыцця. У мемуарах да-

дзены яскравыя характарыстыкі Каліноўскага і яго аднадумцаў. Пры выданні (у віленскай серыі «Бібліятэка мемуараў») успаміны забяспечаны змястоўнай прадмовай і каментарыямі — па сутнасці унікальным біяграфічным слоўнікам удзельнікаў паўстання. Гісторык Т Корзан напісаў спецыяльна для гэтага выдання свае нататкі пра Г «З асабістых кантактаў» Некалькі рукапісаў Г мемуарнага характару захоўваецца ў ДГА Літвы ў Вільнюсе

*Тв* Pamiętniki z lat 1857—1865 Т 1—2 Wilno, 1913, Из воспоминаний Я Гейштора // К Калиновский Из печатного и рукописного наследия Мн 1988

*Літ* Революционный подъем в Литве и Белоруссии 1861—1862 гг М, 1964 (Восстание 1863 г Материалы и документы), Смирнов А Ф Восстание 1863 г в Литве и Белоруссии М, 1963 *Г В Кісялеў*

**ГЕ́ЛГУДЫ,** старадаўні шляхецкі род герба «Дзялоша» (у чырв полі з правага боку аленевы рог шэрага колеру з 4 галінамі, з левага — крыло каршуна, у нашлемніку 3 страусавы пяры). Прадстаўнікі роду займалі дзярж і вайсковыя пасады ў ВКЛ, Рэчы Паспалітай і Каралеўстве Польскім у 17—19 ст, валодалі маенткамі ў Жэмайціі (Жмудзі) Упершыню згадваюцца ў канцы 16 ст

Найбольш вядомыя·

Бальцар (?—?), родапачынальнік, у 1621 валодаў Гелгудзішкамі ў Расіенскім пав.

Андрэй Казімір (?—1711), сын Бальцара. Каралеўскі сакратар, падстолі жмудскі (1668), пісар вялікі літоўскі (1673) Староста друптвілоўскі (1666), шадоўскі (1696), садавіцкі Неаднаразова выбіраўся дэпутатам сойма (1668, 1674, 1685, 1688 і 1697), маршалак пасольскай ізбы (ніжэйшай палаты сойма) у 1685, 1688, пісар ВКЛ (пач. 18 ст.). У час міжусобіц 2-й пал 17 ст. прыхільнік караля Рэчы Паспалітай Міхала Вішнявецкага, належаў да групоўкі канцлера ВКЛ К. Паца Узбагаціў род новымі маенткамі.

Антоній (?—?), староста жмудскі, дэпутат сойма ў 1783.

Міхал (?—?), сын Антонія, падкаморы дворны, палкоўнік Жмудскага княства, суддзя соймавы (1780), дэпутат Трыбунала ВКЛ (1781), саветнік дэпартамента фінансаў пастаяннай Рады (урада) Рэчы Паспалітай (1786), пісар польны літоўскі (1790) Прыхільнік *Таргавіцкай канфедэрацыі*, з чэрв 1792 яе саветнік у Жмудзі, з крас 1793 саветнік вайсковага дэпартамента. Маршалак дворны ВКЛ (апошні, ліп 1793).

Ігнацы (?—13.5 1807), дэпутат *чатырохгадовага сойму 1788—92*, ротмістр нац кавалерыі і стражнік ВКЛ у 1789—93 Належаў да згуртавання сяброў *канстытуцыі 3 мая 1791* Удзельнік *паўстання 1794*, 24.4 1794 абраны ў *Найвышэйшую Літоўскую раду* У час вайны 4-й антынапалеонаўскай кааліцыі супраць Францыі 1806—07 удзельнічаў у арганізацыі польскіх узбр. фарміраванняў у складзе напалеонаўскага войска, камандаваў дывізіяй; генерал-лейтэнант.

Антоні (1792—13.7 1831), сын Міхала, генерал. Удзельнік расійска-французскай вайны 1812 У 1812 уласным коштам сфарміраваў полк пяхоты і быў прызначаны яго камандзірам у чыне палкоўніка Ваяваў у складзе корпуса Варшаўскага герцагства супраць расійскай арміі ў 1812 і 1813, абараняў крэпасць Модлін Працягваў службу ў арміі Каралеўства Польскага, з 1818 генерал брыгады. Актыўны ўдзельнік *паўстання 1830—31* у Польшчы, на Беларусі і ў Літве. За поспех у бітве каля Грохава 25.2.1831 атрымаў чын генерала дывізіі На чале 2-й дывізіі войска польскага меў поспех у бітве каля Мінска-Мазавецкага. 26.5. 1831 на чале дывізіі (каля 11 тыс. чал.) выйшаў з Ломжы на Гародню, каб дапамагчы паўстанцам Беларусі і Літвы і атраду генерала Д. Хлапоўскага, які прыбыў з Польшчы напярэдадні 29 мая каля Райгрода разбіў невялікі рускі атрад генерала Остэн-Сакена, але потым дзейнічаў марудна, дарэмна трацячы час. Замест таго каб атакаваць Вільню, дзе было мала рускіх войск, пайшоў на Жмудзь. 10.6.1831 аб'яднаў свае сілы з атрадам Хлапоўскага Накіраваў частку сваіх атрадаў на Пн ад Вільні і на Жмудзь, каб дайсці да Палангі і дачакацца транспартных караблёў са зброяй з Англіі. 19 чэрв. часткай сваіх сіл з Панарскіх вышынь атакаваў Вільню, куды былі ўжо сцягнуты рус войскі, атака была адбіта, атрады Г. панеслі вялікія страты (2 тыс. чал ) Пасля паражэння ў войску пачалася дэмаралізацыя і анархія. Г. адышоў на Жмудзь, дзе зноў пацярпеў некалькі паражэнняў. Корпус быў падзелены на 3 атрады і, абкружаны рус войскамі, пачаў адыходзіць да прускай граніцы. 13 7.1831 атрады Г. і Хлапоўскага перайшлі граніцу з Прусіяй, дзе адразу ж былі інтэрніраваны. Западозраны ў здрадзе, Г. быў застрэлены капітанам С Скульскім. *А П Грыцкевіч*

**ГЕ́ЛЬВІХ** Петр Аўгуставіч [7(19).12. 1873, Віцебск — 7.5.1958], генерал-маер артылерыі, вучоны ў галіне балістыкі і тэорыі стральбы (1940) Д-р тэхн. навук (1938), прафесар (1935), лаўрэат Дзярж прэміі СССР 1941 З сям'і настаўніка. У арміі з 1892. Скончыў Міхайлаўскую артыл. акадэмію (1903) Да 1917 выкладчык у гэтай акадэміі. У 1918 у званні палкоўніка добраахвотна ўступіў у Чырв. Армію. Да 1943 у Ваен. акадэміі імя Дзяржынскага, ст. выкладчык У 1943—53 у Гал артыл. упраўленні Сав. Арміі.

**ГЕ́ЛЬМАН** Паліна Уладзіміраўна (н 24.10.1919, г Бярдзічаў Жытомірскай вобл.), Герой Сав Саюза (1946). З 1920 жыла ў Гомелі. Скончыўшы 3 курсы гіст ф-та Маскоўскага ун-та, у кастр 1941 добраахвотнікам уступіла ў Чырв. Армію. Скончыла курсы штурманаў (1942). З мая 1942 на Паўд., Паўн.-Каўказскім, у Асобнай Прыморскай арміі, на 4-м Укр і 2-м Бел. франтах штурман, нач сувязі эскадрыллі 46-га гв. Таманскага жаночага авіяпалка начных бамбардзіроўшчыкаў, ст. лейтэнант. Удзельніца абароны Каўказа, вызвалення Кубані, Таманскага паўвострава, Крыма, Беларусі, Польшчы, разгрому ворага ў Германіі Зрабіла 860 баявых вылетаў на бамбардзіроўку пераправ, складоў, аэрадромаў, жывой сілы і баявой тэхнікі праціўніка. Дастаўляла дэсантнікам харчы, боепрыпасы, адзенне медыкаменты Да 1957 у Сав Арміі маер Скончыла Ваен. ін-т замежных моў (1951). У 1959—79 на выкладчыцкай рабоце

**ГЕ́ЛЬТМАН** (Heltman) Віктар (23 12 1796, в. Вярховічы Брэсцкага пав Слонімскай губ, цяпер Камянецкі р-н — 16.7.1874), польскі рэвалюцыянер, публіцыст Скончыў Свіслацкую гімназію У 1819 заснаваў у Варшаве рэв студэнцкую арг-цыю «Саюз вольных палякаў» рэдактар яе органа «Dekada Polska» («Польская дэкада»). З удзелам Г і яго брата Іосіфа ў 1819 створана тайная патрыят. арг-цыя ў Свіслацкай гімназіі Гродзенскай губ. Удзельнік *паўстання 1830—31* у Польшчы, на Беларусі і ў Літве, падрыхтоўкі кракаўскага паўстання 1846, рэв падзей у Галіцыі 1848, кіраўнік абароны Дрэздэна ў час рэвалюцыі 1848—49 у Германіі Адзін з аўтараў маніфеста польскага *дэмакратычнага таварыства* Лічыў за неабходнае аб'ядналь барацьбу за незалежнасць Польшчы з барацьбой за ліквідацыю феад-прыгонніцкіх адносін рэв. шляхам. Памёр у эміграцыі ў Бруселі

*Тв* Emigracja polska od r 1831 do 1863 Krotki rys historyczny Lipsk, 1865 Demokracja polska na emigracji Lipsk, 1866

**ГЕ́ЛЬТМАН** Стафан Лявонавіч (4.10 1886, г Замосце Люблінскай губ, цяпер г. Замосць, Рэспубліка Польшча — 20 9.1937), рэвалюцыянер, дзярж дзеяч БССР. Скончыў Ягелонскі ун-т у Кракаве (1912) Рэв. дзейнасць пачаў у 1903 У 1903—05 рэдактар час. «Glos» («Голас»). З 1915 у Мінску. Адзін з арганізатараў Польскага сацыяліст аб'яднання (ПСА), старшыня праўлення яго мінскай групы ў 1917—18. Адначасова заснавальнік і рэдактар яго органа «Prawda» («Праўда»). Пасля Лют рэвалюцыі 1917 чл. бальшавіцкай фракцыі Мінскай гар. думы Са снеж. 1917 камісар па польскіх справах Зах вобласці і фронту. Пасля захопу Мінска германскімі войскамі арыштаваны знаходзіўся 9 месяцаў у турме У 1919 нам наркома земляробства і лясной гаспадаркі Літ-Бел. ССР, заг. аддзела земляробства Мінскага губрэўкома У 1919—20 чл. Польбюро ЦК РКП(б) у Смаленску. Летам 1920 узначальваў зямельны аддзел Польрэўкома ў Беластоку затым сакратар Польбюро ЦК РКП(б) адначасова кіраўнік выдавецкага кааператыва «Трыбуна». У 1924—25 нарком земляробства, старшыня Дзяржплана эканам савета і нам старшыні Саўнаркома БССР. З 1925 рэктар і заг кафедры эканомікі і палітыкі Камуніст ун-та Беларусі ў Мінску, адначасова з 1927 заг. польскага сектара Ін-та бел

культуры, чл. яго прэзідыума. Прымаў удзел у рабоце гістпарта і т-ва гісторыкаў-марксістаў БССР. У 1930-я гады ў Наркаматах земляробства і зернесаўгасаў СССР. Чл. ЦК КП(б)Б у 1924—29, чл. ЦВК БССР у 1924—29, прэзідыума ЦВК БССР у 1926—29. Аўтар прац па аграрным пытанні Беларусі, пра ўдзел палякаў у Кастр. рэвалюцыі. Упершыню паказаў фарміраванне і барацьбу корпуса І. Доўбар-Мусніцкага супраць сав. улады. 5.4.1937 арыштаваны органамі НКУС СССР і расстраляны 20.9.1937. Рэабілітаваны ў 1956.

*Тв.:* Chlopskie partactwo czy gospodarka spoleczna. Sprawa rolna podczas rewolucji. Мн.,1920; Nacjonalizacja ziemi na Białey Rusi. Mn., 1921; Robotnik polski w rewolucji pazdziernikowej na Białorusi. Mn., 1927.

*Літ.:* Иосько М. И. К. Маркс, Ф. Энгельс и революционная Белоруссия. 2 изд. Мн., 1985. *У. М. Міхнюк.*

**ГЕ́ЛЬФМАН** Геся Мееравна [Міронаўна; паміж 1852—55, г. Мазыр — 1(13).2.1882], рэвалюцыянерка-народніца. У час вучобы на курсах у Кіеве (1874) вяла рэв. прапаганду сярод рабочых. У 1877 прыгаворана да 2 гадоў зняволення. З 1879 чл. партыі «Народная воля». На канспіратыўных кватэрах Г. у Пецярбургу размяшчалася друкарня нарадавольскай «Рабочей газеты», хаваліся выбуховыя рэчывы, рыхтаваўся замах на Аляксандра II. Арыштавана 3(15).3. 1881, разам з інш. арганізатарамі замаху — А. І. Жалябавым, С. Л. Пяроўскай, М. І. Кібальчычам, Ц. М. Міхайлавым і М. І. Рысаковым — прыгаворана да павешання; выкананне прыгавору адтэрмінавалі ў сувязі з цяжарнасцю Г. Шырокая кампанія на абарону Г. прымусіла цара замяніць пакаранне смерцю пажыццёвай катаргай. У доме папярэдняга зняволення Г. нарадзіла дачку і неўзабаве памерла.

**ГЕНАГЕАГРА́ФІЯ**, навука, якая вывучае геаграфічнае размежаванне генаў чалавека, геаграфію генафондаў асобных папуляцый і этнасаў, што фарміруюцца ў залежнасці ад гіст. і экалагічных умоў існавання. Мяжуе з эвалюцыйнай біялогіяй, этнічнай гісторыяй, геаграфіяй. Генафонд — гістарычна ўпарадкаваная сукупнасць генаў, якая ўтрымліваецца папуляцыяй ці этнасам на працягу шэрага пакаленняў, знаходзячыся ў дынамічнай раўнавазе паміж імі і наваколлем, звязваючы сабой генетычную памяць і этнічную самасвядомасць, непарыўна звязаны з гісторыяй народа, яго культурай, гасп. дзейнасцю. На Беларусі даследавана больш за 100 груп карэннага насельніцтва, выяўлена зменлівасць антрапагенетычных прыкмет у шыротным напрамку Пн — Пд. Такі геаграфічна зафіксаваны гамеастаз непарыўна звязаны з гіст. шляхам этнасу на працягу жыцця больш як 100 пакаленняў. На фоне генетыка-антрапалагічнай прасторы вызначаюцца 2 палярныя рэльефы на Пн і Пд рэспублікі. У кожным з іх, магчыма, існуе свой след генетычна зыходных кампанентаў — балцкага і славянскага.

*Літ.:* Антропология и геногеография. М., 1974; Микулич А. И. Геногеография сельского населения Белоруссии. Мн., 1989; Рычков Ю. Г., Балановская Е. В. Генофонд и геногеография населения СССР // Генетика. 1992 Т. 28, № 1.

*А. І. Мікуліч.*

**ГЕНАЦЫ́Д** (грэч. gēnos род, племя + + лац. caedo забіваю), знішчэнне асобных груп насельніцтва па расавых, нацыянальных, этнічных, паліт. або рэлігійных матывах, а таксама наўмыснае стварэнне жыццёвых умоў, разлічаных на поўнае ці частковае фізічнае знішчэнне гэтых груп, меры па папярэджванні дзетанараджэння ў іх асяроддзі; адно з найцяжэйшых злачынстваў супраць чалавецтва. Арганічна звязаны з фашызмам, расізмам і аналагічнымі рэакцыйнымі тэорыямі, якія прапагандуюць расавую і нац. выключнасць, нянавісць і нецярпімасць, панаванне т. зв. «вышэйшых» рас над «ніжэйшымі» і г. д. Паняцце Г.— пагалоўнага вынішчэння цэлых народаў — як катэгорыя міжнар. права ўвайшло ва ўжытак пасля 2-й сусв. вайны. У масавых маштабах злачынствы Г. гітлераўцы ўчынялі ў час 2-й сусв. вайны ў акупіраваных краінах Еўропы, асабліва супраць славянскага (рускіх, украінцаў, беларусаў, чэхаў, палякаў) і яўрэйскага насельніцтва. Мільёны людзей розных нацыянальнасцей знішчаны гітлераўцамі ў *лагерах смерці,* турмах, у час *карных аперацый* і інш. У адпаведнасці з генеральным планам *«Ост»* фашысты прадугледжвалі знішчыць на тэр. СССР і Польшчы 120—140 млн. чал. За гады акупацыі на тэр. СССР фашысты знішчылі ў лагерах смерці 11 млн. чал. На акупіраванай тэр. Беларусі было створана больш за 260 лагераў смерці, за 3 гады акупацыі знішчана больш за 2 млн. 200 тыс. сав. грамадзян. Выкрыццё на Нюрнбергскім працэсе 1945—46 жудасных злачынстваў гітлераўцаў паслужыла штуршком да прыняцця міжнар.-прававых актаў, накіраваных на барацьбу з Г. Ген. Асамблея ААН 11.12.1946 прыняла рэзалюцыю супраць Г., 9.12.1948 адобрыла канвенцыю «Аб папярэджанні злачынства генацыду і пакаранні за яго», якая ўстанаўлівае міжнар. крымінальную адказнасць асоб, вінаватых ва ўчыненні Г. На XX сесіі Ген. Асамблеі ААН 21.12.1965 прынята міжнар. канвенцыя аб ліквідацыі ўсіх форм расавай дыскрымінацыі, якая абавязвае дзяржавы папярэджваць, забараняць і выкараняць усе формы і віды расавай дыскрымінацыі, у т. л. Г. З канца 1980-х гадоў некаторыя гісторыкі і публіцысты пачалі да Г. адносіць і масавае вынішчэнне людзей, што праводзілася ў гады сталіншчыны.

*Літ.:* Гл. пры арт. *Акупацыйны рэжым.*

**ГЕНЕАЛО́ГІЯ** (грэч. genealogia), спецыяльная гістарычная дысцыпліна, якая ў гіст. рэтраспектыве вывучае індывідуальна-сямейна-радавыя сувязі, заснаваныя на агульным паходжанні, роднасці. Дазваляе высветліць ролю прыродна-біялагічных, у т. л. этнагенетычных, а таксама сацыяльных фактараў у развіцці роду, канкрэтнай асобы, пэўных сац. груп і ўсяго грамадства. Без вывучэння Г. на ўсіх яе ўзроўнях немагчыма паўнацэннае даследаванне многіх важных праблем гісторыі Беларусі: працэсаў фарміравання саслоўнай структуры, кансалідацыі кіруючых слаёў, унутранай і знешняй палітыкі вярх. улады, эвалюцыі буйнога землеўладання, розных форм прыватнай уласнасці, царкоўна-рэлігійных, этнаканфесіянальных, сацыяльна-эканам. адносін і інш.

У гіст. і сац. плане Г. ставіць за мэту вывучэнне генеалагічных сувязей усіх слаёў насельніцтва на працягу ўсіх гіст. перыядаў, але асн. ўвагу даследчыкаў звычайна прыцягвае Г. прывілеяваных пластоў грамадства пераважна на ранніх этапах развіцця дзяржавы і этнасу. Гэта тлумачыцца тым, што ў старажытнасці генеалагічныя сувязі правячых дынастый, манархаў, тытулаванай арыстакратыі, баярства, шляхты, магнатаў мелі больш істотнае значэнне, чым у больш познія часы, калі сац. перагародкі сталі больш празрыстымі і грамадства больш мабільным і разнастайным. Да таго ж абсалютная большасць гіст. генеалагічных крыніц тычыцца прывілеяваных слаёў грамадства. Зараджэнне Г. ўзыходзіць да тае пары, калі фарміравалася і пашыралася пісьмовае права і дзярж. справаводства, якія афіцыйна замацоўвалі сямейна-радавы і маёмасны статут. Адносна доўгі час Г. развівалася як дапаможныя практычныя веды, якія ў своеасаблівых формах вызначалі сац. становішча феадалаў, маёмасныя і інш. правы родаў, сем'яў, асоб, месца ў сацыяльнай іерархіі для прадстаўнікоў духавенства, мяшчанства. Тэарэтычная зацікаўленасць да Г. і пераўтварэнне яе ў спец. дысцыпліну пачынаецца з 17—18 ст. З канца 18 ст. ў шэрагу еўрапейскіх дзяржаў уводзіцца выкладанне Г. Выдаюцца радаслоўныя кнігі і генеалагічныя даведнікі каралеўскіх, княжацкіх і інш. дваранскіх родаў. З прагрэсам у развіцці інш. дапаможных дысцыплін з 19 ст. ў Г. стала магчымым выкарыстанне строга навук. метадаў, звестак, правераных гіст. крытыкай. У сусв. Г. важным з'яўляецца кірунак яе развіцця, які займаецца вывучэннем паходжання шырокіх слаёў насельніцтва на падставе дакументальных крыніц: метрычных кніг рэлігійных храмаў 18—20 ст., перапісы насельніцтва, інвентары і інш. Гэтыя матэрыялы дазваляюць прасачыць працэсы фарміравання і эвалюцыі нацыі, яе этнічных сувязей, гісторыі нац. меншасцей, вызначыць антрапалагічны тып народа, з'яўляюцца дзейсным фактарам адраджэння нац. і гіст. свядомасці. Сучасныя метады апрацоўкі генеалагічных матэрыялаў (навук. тэрміналогія, высвятленне ступеняў роднасці, складанне генеалагічных табліц, радаводаў, праверкі дакументальных спасылак, храналогіі і інш.) выкладзены ў розных еўрапейскіх дапаможніках.

Агляды еўрапейскай Г. пададзены ў энцыклапедыях і спец. генеалагічных выданнях.

Бел. Г. знаходзіцца ў пачатковым стане свайго развіцця, і моцны падмурак у гэтым для яе стварылі працы многіх польск., рус. і некаторых мясцовых даследчыкаў, дзе былі прадстаўлены матэрыялы, што тычацца земляў ВКЛ і Рэчы Паспалітай. У Расіі Г. спачатку была практычнай. Радаслоўныя разрадныя кнігі, баярскія спісы, Тысячная кніга 1550, «Дваровы сшытак» сярэдзіны 16 ст. і інш. матэрыялы прыказнога справаводства асвятляюць гісторыю дзярж. апарата Маскоўскай Русі, княжацкай і нетытулаванай знаці. Радаслоўныя запісы канца 15 — сярэдзіны 17 ст. выкарыстоўвалі ў спрэчках дзеля вызначэння саслоўнага статуса родаў, што ўплывала на службовую і прыдворную кар'еру. У 1687 складзены афіцыйны радаслоўны даведнік — *Аксамітная кніга.* У 1687—1700 працавала Радаслоўных спраў палата. Фарміраванне расійскай Г. як навук. дысцыпліны паскорылася з пашырэннем правоў дваранства пасля рэформ Пятра І. Створана Геральдмайстарская кантора пры сенаце, пазней пераўтвораная ў Дэпартамент герольдыі (праіснавала да 1917). Грамата Кацярыны ІІ 1785 надала значныя правы шляхецтву, дакументы і сведчанні якога зацвярджаліся губ. дэпутацкімі камісіямі або Дэпартаментам герольдыі. У 19 ст. паводле ўказа Паўла І распачата выданне «Агульнага гербоўніка дваранскіх родаў Усерасійскай імперыі» (да 1917 зацверджана 20 тамоў, выдадзена 10). Дадаткам да гэтага выдання былі даведнікі па рус. Г. і геральдыцы, складзеныя У. К. Лукомскім і С. Н. Трайніцкім. Звесткі па бел., літ. і ўкр. Г. можна знайсці ў рус. генеалагічных даведніках, наратыўных і дакументальных крыніцах, дзе змешчаны міфалагічнае і сапраўднае гіст. паходжанне асобных родаў, выхадцаў «з Літвы», прадстаўнікоў княжацкай і магнацкай арыстакратыі (дваран, баяр, купцоў, пасадскіх людзей, што выехалі за мяжу або ўзяты ў палон у часы ваеннага ліхалецця і інш.), таксама матэрыялы, што тычацца памежных земляў ВКЛ і Паўд.-Усх. Расіі, якія ў 14—18 ст. уваходзілі ў склад розных дзярж. фарміраванняў. Навук. даследаванні і публікацыі па рус. Г. рыхтавалі П. У. Даўгарукаў, А. Б. Лабанаў-Растоўскі, А. В. Экзэмплярскі, М. П. Ліхачоў, С. Б. Весялоўскі, Л. М. Савелаў, А. А. Зімін, В. Б. Кобрын, М. Я. Бычкова, Г. Л. Харашкевіч, С. М. Каштанаў, В. Л. Янін і інш. Генеалагічныя росшукі і практычная Г. на тэр. Украіны пашырыліся пасля войнаў 17 ст. і далучэння Левабярэжнай Украіны да Расіі. Прадстаўнікі ўкр. княжацкіх, магнацкіх, шляхецкіх сем'яў радніліся з бел. і рус. (Астрожскія, Вішнявецкія, Багавіцінавічы, Радзівілы, Сангушкі, Тышкевічы, Хадкевічы і інш.), захоўвалі свае спадчынныя або набытыя маёнткі на тэр. Беларусі і Украіны. Шмат бел. мяшчан і сялян падаваліся на землі казацкай вольніцы, займаліся рамяством, промысламі, гандлявалі, удзельнічалі ў буд-ве замкаў, палацаў, храмаў, у культурнай і выдавецкай дзейнасці ўкр. брацтваў і інш. Падобныя працэсы закраналі перасяленцаў на землі Беларусі. Укр. шляхта і казацкая старшына дамагаліся роўных правоў з рус. дваранствам, узнаўлялі і запісвалі свае радаводы, гербоўнікі, выкарыстоўвалі фіктыўныя звесткі, каб упісацца ў дваранскія радаслоўныя кнігі. Прыкметны ўклад у распрацоўку ўкр. Г. зрабілі Г. А. Міларадавіч, А. М. Лазарэўскі, а таксама В. Л. Мадзалеўскі ў сваёй працы «Маларасійскі радаслоўнік» (1908—14) і інш. Унікальную працу па гісторыі казацкіх родаў, у т. л. выхадцаў з Беларусі і Украіны (больш за 40 тыс. прозвішчаў), склалі ўкр. вучоныя Ф. П. Шаўчэнка і Р. І. Осташ. Пачынальнікам польск. генеалагічнай л-ры быў Б. Папроцкі, які ў кнізе «Гербы польскага рыцарства» (1584) падаў каля 150 бел., літ. і ўкр. шляхецкіх родаў. Як усе раннія генеалагічныя публікацыі, яна носіць наіўны панегірычны характар, уключае шмат міфалагічных звестак, легенд, больш дакладная інфармацыя тычыцца часоў жыцця аўтара (2-я пал. 16 — пач. 17 ст.). Шырокі храналагічны перыяд ахоплівае 3-томны «Радавод палякаў» Ш. Акольскага (1641—45). Найлепшай публікацыяй 17 ст. па Г. шляхты ВКЛ з'яўляецца гербоўнік гісторыка В. Каяловіча (2-я пал. 17 ст.). Вядомы 3 рэдакцыі яго гербоўніка: 1-я і 2-я — апісанні Г. шляхты з гербамі; 3-я — падрабязныя да іх матэрыялы. Скарочаную рэдакцыю гэтай працы («Кампедыум рыцарства Вялікага княства Літоўскага») выдаў у 1897 польскі гісторык Ф. Пекасінскі. Сярод гісторыкаў ВКЛ Каяловіч упершыню з Я. Длугашам, Папроцкім, Акольскім шырока выкарыстоўваў дакументальныя матэрыялы і пісьмовыя апытанні шляхты, але не закранаў тэмы, недастаткова падмацаваныя крыніцамі. У генеалагічнай інфармацыі пададзены звесткі пра заснавальніка роду, блізкіх родзічаў, іх дзярж. пасады, удзелы ў войнах, сеймах, пасольствах і інш. У 4-томным гербоўніку «Карона польская» (1728—43) К. Нясецкага звесткі пра бел., польскія і ўкр. роды сабраны з гіст. л-ры, хронік, летапісаў (Длугаш, Кромер, Бельскі, Каяловіч, С. Старавольскі і інш.), а Г. 17 — 1-й пал. 18 ст. больш верагодная. У зборы матэрыялаў Нясецкаму дапамагалі езуіцкія царк. арг-цыі Польшчы і ВКЛ, а лейпцыгскі выдавец гербоўніка Ян Бабровіч

Да арт. Генеалогія. Шляхецкія гербы і радаводныя дрэвы Лазоўскіх (уверсе) і Лукашэвічаў. Малюнкі пач. 19 ст. Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь.

дапоўніў яго шматлікімі дадаткамі Для даследчыкаў Г. Беларусі першачарговае значэнне мае гербоўнік «Збор родаў у Вялікім княстве Літоўскім у XV і XVI ст.» А Банецкага (1887) У яго аснове дакументальныя, пераважна сацыяльнаэканам. і паліт. матэрыялы (звесткі пра зямельную ўласнасць, прывілеі, падзелы маемасці, дзярж. пасады), выяўленыя ў кнігах Метрыкі ВКЛ, гіст архівах, археаграфічных выданнях, радавыя прозвішчы пададзены ў алфавітным парадку, зроблены спасылкі на крыніцы; да матэрыялаў родавай арыстакратыі, магнатаў (радзей звычайнай шляхты) дадзены радаводныя схемы, у дадатку змешчаны спісы духоўных і свецкіх саноўнікаў і ўраднікаў. У апошнія гады свайго жыцця (1899—1909) Банецкі пачаў выдаваць шматтомны «Польскі гербоўнік», прысвечаны Г. шляхецкіх сем'яў (т. 1—13, да літары K, у 1911—13 апублікаваны т 14—16, да прозвішча «Макомаскі») Матэрыялы, сабраныя Банецкім, загінулі ў часы 2-й сусв. вайны. У канцы 19 — 1-й пал. 20 ст. выйшлі абагульняльныя працы «Сям'я. Гербоўнік польскай шляхты» С. Урускага і А Касінскага (т 1—14, 1904—17; у 1931 А. Уладарскі падрыхтаваў т. 15), «Залатая кніга польскай шляхты» Т Жыхлінскага (т. 1—31, 1879—1908, дзе ў т. 10 змешчана радаслоўная Валовічаў, у т. 11 — Хадкевічаў, у т. 13 — Кішкаў, Дарагастайскіх, у т. 17 — Солтанаў, у т. 26 — Тышкевічаў, у т. 31 — Корсакаў і інш.), «Польская шляхецкая энцыклапедыя» (т. 1—12, 1935—38). Некаторыя звесткі з табліцамі па Г. бел. і літоўскай арыстакратыі (кн Слуцкія, Радзівілы, Заслаўскія, магнаты Агінскія, Гаштольды, Глябовічы, Кішкі, Тышкевічы, Хадкевічы і інш.) змешчаны ў дапаможніку «Генеалогія» У Дважачака (1959) Побач з маштабнымі публікацыямі для даследчыкаў бел. Г. значнымі з'яўляюцца і больш вузкія, прысвечаныя гісторыі і Г. пэўных сацыяльных слаеў, князёў, баяр, шляхты, асобных земляў, магнацкіх родаў і інш працы Ю. Вольфа «Сенатары і саноўнікі Вялікага княства Літоўскага 1386—1795» (1885), «Род Гедыміна» (1886), «Князі літоўска-рускія з канца XVI ст» (1895), манаграфія «Пацы Матэрыялы гісторыка-генеалагічныя» (1885), дакумент. матэрыялы «Сапегі» (т. 1—3, 1890—94); даследаванні Е Катлубая «Нясвіжская галерэя партрэтаў Радзівілаў» (1857), М. Тышкевіча «Матэрыялы гістарычна-генеалагічныя да манаграфіі роду Тышкевічаў» (1911); П. Віктароўскага «Заходнярускія дваранскія роды, што адышлі ад праваслаўя ў канцы XVI і XVII стст.» (Кіеў, 1912); С. Дзедулевіча «Гербоўнік татарскіх родаў у Польшчы» (Вільна, 1929) і інш.

Сучасныя генеалагічныя даследаванні Бычковай, А П Грыцкевіча, А Р Гушчына, С. У. Думіна, Дз У. Карава, А. М Нарбута, В. Л. Насевіча, В. Рахубы, Харашкевіч і інш. дапаўняюць рэдкія публікацыі дакументальных матэрыялаў, асн. з якіх выйшлі ў канцы 19 ст. і ўключаюць матэрыялы ўрадавых рэвізій, звязаных з праверкай саслоўных правоў у «нованабытых заходнярускіх» губернях пасля падзелу Рэчы Паспалітай Сярод наратыўных крыніц па бел Г вызначаюцца эпісталярныя матэрыялы, мемуары, друкаваныя панегірыкі з нагоды шлюбу, смерці, прызначэння на высокую дзярж. пасаду. Архіўныя матэрыялы па бел Г. сканцэнтраваны ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь (кнігі мінскіх, віцебскіх, магілёўскіх, дваранскіх дэпутацкіх сходаў), Бел. дзярж. гіст. архіве (Гродна), Расійскім дзярж. гіст. архіве (Санкт-Пецярбург). Бібліяграфія бел. Г. амаль цалкам адсутнічае. Некаторыя працы ўлічаны ў выданнях «Бібліяграфія па гісторыі Беларусі» (склад М. Крэканэ, А. Сакольчык, 1969), «Дакастрычніцкая кніга на рускай мове пра Беларусь (1768—1917 гг.)» Сакольчыка (1976), «Бібліяграфія гісторыі Польшчы» (штогоднік, Варшава), сучасных літоўскіх абагульняльных гіст -бібліяграфічных зборніках. Генеалагічныя матэрыялы выкарыстаны пры падрыхтоўцы артыкулаў пра магнацкія роды (Агінскія, Радзівілы, Сапегі, Тышкевічы і інш.), вял. князёў ВКЛ у «Беларускай савецкай энцыклапедыі» (т. 1—12, 1969—75)

*Літ* Алфавитный список дворянских родов Гродненской губернии, внесенных в дворянскую родословную книгу Гродно, 1900, Алфавитный список дворянским родам, внесенным в Дворянскую родословную книгу Витебской губернии с 1785 по 1900 годы Витебск, 1900, Алфавитный список дворянским родам Минской губернии, внесенным в дворянскую родословную книгу по 1-е июля 1903 года Мн, 1903, Алфавитный список дворянских родов, внесенных в родословные дворянские книги Могилевской губернии Могилев, 1908, Алфавитный список дворянских родов, внесенных в родословные книги Могилевской губернии Могилев, 1909, Лукомский В, Тройницкий С Указатели к Высочайше утвержденным Общему гербовнику дворянских родов Всероссийской империи и Гербовнику дворянских родов Царства Польского Спб, 1910, Их же Гербы третьей части Гербовника дворянских родов Царства Польского Спб, 1910, Викторовский П Г Западнорусские дворянские фамилии, отпавшие от православия в конце XVI и XVII вв Киев, 1912, Наш радавод. Гродна, 1990—92, Румянцева В В Генеалогия // Вспомогательные исторические дисциплины историография и теория Киев, 1988, История и генеалогия М, 1977, Бычкова М Е Родословные книги XVI—XVII вв как исторический источник М, 1975, Вольф Ю Князі на абшарах Вялікага княства Літоўскага ад канца XIV ст // Спадчына 1992 № 4—6, 1993 № 1—5, Paprocki B Herby rycerstwa Polskiego Kraków, 1584, Okolski Sz Orbis Polonus T 1—3 Krakow, 1641—45 Kojałowicz W W Herbarz rycerstwa W X Litewskiego, tak zwany Compendium Krakow, 1897, Niesiecki K Korona Polska T 1—4 Lwow, 1728—43 Яго ж Herbarz Polski T 1—10 Lipsk, 1839—45, Boniecki A Poczet rodów w Wielkiem Księstwie Litewskiem w XV i XVI wieku Warszawa, 1887, Яго ж Herbarz Polski T 1—16 Warszawa, 1899—1913, Stadnicki K Synowie Gedymina wielkowładcy Litwy Lwow, 1881, Яго ж Olgierd i Kiejstut Lwow, 1870, Яго ж Bracia Władysława Jagiełły Olgierdowicza Lwow, 1867, Wolff J Senatorowie i dygnitarze Wielkiego Księstwa Litewskiego 1386—1795 Krakow, 1885, Яго ж Kniaziowie litewsko-ruscy od konca czternastego wieku Warszawa, 1895, Sapiehowie Materjały historyczno-genealogiczne i majątkowe T 1—3 Petersburg, 1890—94, Tyszkiewicz M Monografia domu Tyszkiewiczów Warszawa, 1900, Яго ж Materiały historyczno-genealogiczne do monografii domu Tyszkiewiczow Warszawa, 1911 T 1, Яго ж Groby Tyszkiewiczów Warszawa, 1873 Kotłubaj E Galerja Nieświezska portretow Radziwiłłowskich Wilno, 1857, Żychlinski T Złota księga szlachty Polskiej Poznan, 1879—1908 T 1—31, Uruski S, Kosinski A Rodzina Herbarz szlachty polskiej T 1—15 Warszawa, 1904—17, 1931, Semkowicz W O litewskich rodach bojarskich zbratanych ze szlachtą polską w Horodle r 1413 // Lituana-Slavica Posnaniensia Studia historica Poznan, 1989 Z 3, Spis szlachty wylegitymowanej w guberniach Grodzienskiej, Minskiej, Mohylewskiej, Smolenskiej i Witebskiej Warszawa, 1992 *Г Я Галенчанка*

**ГЕНЕРА́Л,** (ад лац generalis агульны, галоўны), 1) службовая асоба земскіх судоў у ВКЛ, галоўны *возны* Выбіраўся ваяводамі, старостамі і павятовай шляхтай з асоб, якія мелі нерухомую маемасць у дадзеным ваяводстве або павеце. Зацвярджаўся на пасаду лістом вял. князя. На першай сесіі земскага суда прымаў адпаведную прысягу Г мог выконваць свае абавязкі і за межамі свайго павета або ваяводства па ўсёй тэр. ВКЛ. 2) «Чорны папа», галава ордэна *езуітаў*, які выбіраецца пажыццёва і падначальваецца толькі папу рымскаму. 3) Воінскае званне (чын) ва ўзброеных сілах многіх краін свету, у т. л. Рэспублікі Беларусь.

*Літ* Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 Тэксты Давед Камент Мн, 1989

**ГЕНЕРА́Л АРТЫЛЕРЫІ,** дыгнітарская пасада (урад) у ВКЛ, кіраўнік артылерыі. Загадваў арсеналамі, збраёўнямі, парахоўнямі і людвісарнямі, займаўся забеспячэннем войска і арсеналаў порахам і амуніцыяй, навучаннем артылерыстаў. Вядома з 17 ст, калі вял кн Уладзіслаў надаў артылерыі вайсковую арганізацыю (т зв. «Артыкулы», абвешчаныя ў 1634 пад Смаленскам). Г. а. прызначаўся пажыццёва і не меў права займаць інш. вайсковых пасад Першым кіраўніком артылерыі ВКЛ у 1638 стаў Мікалай Абрамовіч. Ад 1685 Г а атрымліваў 3 тыс. злотых на прыватныя патрэбы. Распараджаўся буйнымі грашовымі сродкамі, прымаў спец прысягу не расходаваць гэтыя грошы на інш. мэты, акрамя артылерыі. Даваў справаздачы і падпарадкоўваўся вял. *гетману,* з 1775 Вайсковаму дэпартаменту Усечасовай Рады. *У Вяроўкін-Шэлюта*

**ГЕНЕРАЛ-ГУБЕРНА́ТАР,** намеснік, вышэйшая службовая асоба мясцовай адміністрацыі ў некаторых рэгіенах Расійскай імперыі. Прызначаўся імператарам і непасрэдна падпарадкоўваўся яму (фармальна і Сенату). Узначальваў *генерал-губернатарства* Пасада ўведзена ў пач 18 ст. і першапачаткова

вымярэнняў заносілі ў палявы, а потым у межавы журнал або кнігу, на падставе якіх складаліся спец. геаметрычныя планы дач у маштабе 1:8400. Спец. планы зводзілі ў генеральныя планы паветаў у маштабе 1:42000, да якіх з даведачнымі мэтамі далучалі «Поўныя эканамічныя заўвагі». Завяршалі картаграфічную прадукцыю генеральныя карты намесніцтваў і *Атласы губерняў*.

На Беларусі Г. м. зроблена толькі на землях, далучаных да Расійскай імперыі паводле 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) — у Магілёўскай і Полацкай губ. Яго праводзіла Смаленская межавая кантора (пазней пераўтворана у Сімбірскую). Межаванне Магілёўскай губ. праводзілася з 30.5.1783 да 25.6.1784, Полацкай — з 10.10.1784 да 30.11.1785. Штат канторы налічваў 416 чал., у т. л. 104 каморнікаў. Узначальваў кантору стацкі саветнік В. С. Ваксель. За 2,5 года было абмежавана 3500 дач агульнай пл. 7294900 дзесяцін. Г. м. аформіла вярх. правы царызму на далучаную тэрыторыю і саслоўны лад землекарыстання. З'яўлялася часткай русіфікатарскага курсу адміністрацыі па насаджэнні рус. землеўладання: межавая дакументацыя абвяшчалася адзінай законнай падставай землеўладання, чым скасоўваліся ўсе папярэднія прывілеі і граматы на зямлю. У 1820-я і 1850-я гады рабіліся беспаспяховыя спробы абнавіць межавыя матэрыялы, але больш надзейнымі былі прызнаны вынікі ваенна-тапаграфічных здымак. Матэрыялы Г. м. шырока выкарыстоўваліся ў час *Айчыннай вайны 1812*, пры размежаванні сялянскіх і памешчыцкіх палёў пасля *сялянскай рэформы 1861*. Яны з'яўляюцца каштоўнай гіст. крыніцай, асабліва генеральныя планы паветаў і «Поўныя эканамічныя заўвагі», дзе прыведзены звесткі пра кожнае землеўладанне, населеныя пункты, колькасць сялянскіх двароў і душ абодвух полаў, віды жывёл і раслін, ураджайнасць глебы, плошчу зямельных угоддзяў, прамысл. прадпрыемствы, велічыню панскага ворыва, памеры сялянскага грашовага аброку і інш. Поўны камплект межавой дакументацыі знаходзіцца ў РДГА у С.-Пецярбургу, РДАСА у Маскве, частка — у НА Беларусі ў Мінску.

*Літ.* Герман И. Е. История русского межевания 3 изд. М., 1914; Рудин С Д. Межевое законодательство и деятельность межевой части в России за 150 лет. Пг., 1915; Николас В Д. Указатель русской литературы по межевому делу // Труды топографо-геодезической комиссии. М., 1901. Вып. 13; Кислов И. Научное и практическое значение материалов Межевого архива // Архивное дело. 1932. Вып. 3—4 (28—29), Анішчанка Я. К. Генеральнае межаванне Полацкага і Магілеўскага намесніцтваў // Весці АН БССР. Сер. грамад навук 1990 № 6; Яго ж Перадумовы Генеральнага межавання Усходняй Беларусі // Старонкі гісторыі Беларусі Мн., 1992.
*Я. К. Анішчанка*

**ГЕНЕРА́ЛЬНАЯ АКРУ́ГА БЕЛАРУ́СЬ** (Generalbezirk Weissruthenien), ваенна-адміністрацыйная адзінка на акупіраванай ням.-фаш. захопнікамі тэр. Беларусі ў Вял. Айч. вайну. Уведзена ў адпаведнасці з загадам А. Гітлера ад 17.7.1941 «Аб кіраванні ў зноў захопленых усходніх абласцях». Разам з ген. акругамі Эстонія, Латвія, Літва ўваходзіла ў склад рэйхскамісарыята *«Остланд»*, які падпарадкоўваўся Рэйхсміністэрству па справах акупіраваных усх. абласцей. У склад Г. а. Б. увайшла тэр. БССР па лініі Полацк—Барысаў на У, Старыя Дарогі — воз. Чырвонае на Пд, р. Зальвянка — усх. ўскраіна Белавежскай пушчы на З, што складала прыкладна 1/4 частку тэр. Беларусі з насельніцтвам 3138256 чал. (на 4.12.1941). Вышэйшым органам ням.-фаш. акупац. улады на тэр. акругі з'яўляўся *генеральны камісарыят Беларусь*. Тэрыторыя Г. а. Б. была падзелена на 10 акруг (гебітаў; Баранавіцкая, Барысаўская, Вілейская, Ганцавіцкая, Глыбоцкая, Лідская, Мінская, Навагрудская, Слонімская, Слуцкая), у кожнай з якіх быў створаны абл. камісарыят (гебітскамісарыят). У Мінску на правах абл. камісарыята быў створаны гар. камісарыят, у гарадах і раёнах — гар., раённыя і валасныя ўправы. *А. М. Літвін*

**ГЕНЕРА́ЛЬНАЯ КАНФЕДЭРА́ЦЫЯ 1812**, палітычнае аб'яднанне магнатаў і шляхты *Варшаўскага герцагства*, а таксама Беларусі і Літвы з мэтай абуджэння нац.-вызв. руху і мабілізацыі матэрыяльных сіл у час вайны Францыі супраць Расіі. Абвешчана па ініцыятыве Напалеона I надзвычайным сеймам герцагства 28.6.1812. Маршал канфедэрацыі — А. К. Чартарыйскі; пастаянны орган — Ген. савет (з 11 членаў). Акт канфедэрацыі ад 28 чэрв. аб'яўляў пра

Да арт Генеральнае межаванне. Фрагмент Генеральнага плана Копыскага павета. 1786.

аднаўленне Каралеўства Польскага, заклікаў усіх палякаў далучацца да канфедэрацыі, а тых, хто знаходзіўся на рускай службе,— пакінуць яе. На працягу ліп.— кастр. да канфедэрацыі далучыліся (звычайна шляхам прыняцця адпаведных актаў на павятовых сейміках) амаль усе паветы Беластоцкай вобл., Віленскай, Гродзенскай і Мінскай губ., аднак рэальнай улады і ўплыву на Беларусі і ў Літве яна не атрымала. Часовы ўрад ВКЛ пасля адмовы Напалеона ад заснавання асобнай літоўскай канфедэрацыі 14 ліп. таксама ўвайшоў у склад Г. к. 1812, але стварыў уласную сістэму ведамаснага кіравання краем, у цеснай сувязі з французскай акупацыйнай адміністрацыяй. Пэўную ролю адыграла і прамова Напалеона ў Вільні 11 ліп. перад дэлегацыяй Г. к. 1812, дзе ён па сутнасці ўхіліўся ад афіцыйнага прызнання адзінай Польска-Літоўскай дзяржавы. Наступныя акты Г. к. 1812 (адозва 20.12.1812 аб паспалітым рушэнні і інш.) тычыліся толькі тэр. герцагства. У студз. 1813 Ген. савет эвакуіраваўся з Варшавы ў Кракаў, у крас. 1813 самараспусціўся. Матэрыялы Г. к. 1812 публікаваліся ў перыядычным выданні «Dziennik Konfederacyi Generalnej Królestwa Polskiego».

*Літ.:* Rembowski A. Konfederacya Generalna i pospolite ruszenie w roku 1812 // Biblioteka Warszawska. 1896. T. 2; Koźmian K. Pamiętniki. T. 2. Wrocław, 1972. *В. В. Антонаў.*

**ГЕНЕРА́ЛЬНЫ КАМІСАРЫЯ́Т БЕЛАРУ́СЬ** (Generalkommissariat Weissruthenien), вышэйшы орган ням.-фаш. цывільнага кіравання часткай акупіраванай тэр. Беларусі ў Вял. Айч. вайну. Створаны ў адпаведнасці з загадам А. Гітлера ад 17.7.1941, паводле якога кіраванне захопленымі сав. абласцямі пасля «спынення ваенных дзеянняў пераходзіць ад ваеннай адміністрацыі да цывільных улад». Ген. камісар — гаўляйтар В. *Кубэ* (1.9.1941—22.9.1943), в. а. ген. камісара — ген.-лейт. паліцыі групэнфюрэр К. фон Готберг (вер. 1943 — чэрв. 1944). Г. к. Б. складаўся з 5 гал. аддзелаў: палітыкі (уключаў аддзелы палітыкі, прапаганды, культуры і моладзі); упраўлення (кадраў, права, фінансавы, мед. абслугоўвання, ашчадных кас і інш.); гаспадаркі (гаспадаркі, сельскай гаспадаркі, харчовы, леса- і дрэваапрацоўкі, рабочай і сац. палітыкі, прамысловасці і рамяства); тэхнікі (буд-ва дарог, воднай гаспадаркі, рэк); працы (з 1944). Склад апарата Г. к. Б. камплектаваўся з асоб ням. нацыянальнасці. Г. к. Б. непасрэдна падпарадкоўваліся абл. камісарыяты, гар. камісарыят Мінска, сілы паліцыі бяспекі і СД. Апарат Г. к. Б. ажыццяўляў ням.-фаш. палітыку на тэр. *генеральнай акругі Беларусь,* скіраваную на найбольш эфектыўнае выкарыстанне эканам. патэнцыялу, людскіх і матэрыяльных рэсурсаў Беларусі ў інтарэсах Германіі, правядзенне паліт. і ідэалаг. мерапрыемстваў і інш. *А. М. Літвін.*

**ГЕНЕРА́ЛЬНЫ ПЛАН «ОСТ»,** гл. *«Ост».*

**ГЕ́НІЮШ** Ларыса Антонаўна [27.7(9.8).1910, маёнтак Жлобаўцы, каля в. Воўпа Гродзенскага пав., цяпер Ваўкавыскі р-н — 7.4.1983], беларуская пісьменніца, дзеяч бел. адраджэння. Скончыла Ваўкавыскую гімназію (1928). У 1937—48 жыла з мужам-эмігрантам у Празе, дзе была сакратаром прэзідэнта Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР) у эміграцыі В. Захаркі, займалася захаваннем і ўпарадкаваннем прэзідэнцкага архіва, апякунствам бел. эмігрантаў, паліт. уцекачоў і ваеннапалонных. 5.3.1948 арыштавана, знаходзілася ў турмах Чэхаславакіі, з жн. ў сав. турмах Вены і Львова, з канца 1948 у турме ў Мінску, дзе ў 1949 асуджана на 25 гадоў зняволення. Пакаранне адбывала ў лагерах Інта і Абедзь (Комі АССР) і Мардоўскай АССР. У 1956 датэрмінова вызвалена, але не рэабілітавана. Пасялілася на радзіме мужа ў Зэльве.

Вершы пачала пісаць у гімназіі, друкавацца — у 1939 у берлінскай газ. бел. эміграцыі «Раніца». У 1942 у Празе выйшаў першы зборнік яе паэзіі «Ад родных ніў». Пісала вершы падпольна і ў зняволенні. З 1967 пры садзейнічанні М. Танка, У. Караткевіча, Д. Бічэль-Загнетавай надрукаваны 2 зборнікі паэзіі і 2 кніжкі вершаў для дзяцей. Пасмяротна надрукаваны зборнік паэтычнай спадчыны і ўспаміны «Споведзь». Ва ўспамінах увасобіліся драматычная рэчаіснасць Зах. Беларусі ў часы польскай акупацыі, шматгранная жыццё бел. эміграцыі ў Празе, нац.-вызваленчы рух, лёс заснавальнікаў БНР і іх пераемнікаў, падзеі ваеннага часу ў Цэнтр. Еўропе і на Беларусі. Асаблівае месца ва ўспамінах займаюць гады, праведзеныя ў сталінскіх турмах і канцлагерах, трагічныя лесы Г. сям'і, сулагернікаў, змаганне за чалавечую годнасць у нялюдскіх умовах. Паэтычнай творчасці Г. характэрны цнатлівы лірызм, глыбокія народнасць і гуманізм, філасофскае асэнсаванне жыцця, моцныя хрысціянскія і нац.-патрыятычныя матывы. Прыкметнае месца ў яе творчасці займае гіст. тэматыка, на якую напісаны вершы «Князь Ізяслаў Чарадзей», «Ефрасіння Полацкая», «Скарына», «Кастусь Каліноўскі», «Над старымі друкаванымі кнігамі», паэма «Даўніна». Шэраг вершаў прысвечаны выдатным сучаснікам, дзейнасць і творчасць якіх становяцца або сталі з'явай айч. гісторыі — П. Клімуку, У. Кавалёнку, М. Забэйду-Суміцкаму, У. Караткевічу, З. Пазьняку і інш.

*Тв.:* Невадам з Немана. Мн., 1967; Казкі для Міхаські. Мн., 1972; Добрай раніцы, Алесь. Мн., 1976; На чабары настоена. Мн., 1982; Белы сон. Мн., 1990; Споведзь. Мн., 1993.

*Літ.:* Марціновіч А. «Ты мой боль святы, Беларусь мая...» // Роднае слова. 1992. № 3. *М. М. Чарняўскі.*

Л. Геніюш з сынам і мужам. Прага 1940-я гады.

**ГЕ́НРЫК ВАЛЕ́ЗЫ** (Генрых Валуа, франц. Henri III Valois; 19.9.1551, Фантэбло, Францыя — 2.8.1589), герцаг Анжуйскі, кароль польскі і вял. кн. літоўскі (1574), кароль Францыі (з 1575), апошні прадстаўнік дынастыі Валуа (Ангулемская галіна) на троне Францыі. Трэці сын Генрыха II Валуа і Кацярыны Медычы. У ліст. 1567 прызначаны ген. намеснікам каралеўства. Баючыся паліт. ўзмацнення Г. В. ў Францыі, яго брат Карл IX падтрымаў прапанову ажаніць Генрыка з Ганнай Ягелонкай, каб па смерці Жыгімонта II Аўгуста ён стаў спадкаемцам кароны Рэчы Паспалітай і такім чынам пазбавіцца ад Генрыка ў Францыі і адначасова не дапусціць на польскі трон Габсбургаў. Звесткі пра падзеі Варфаламееўскай ночы 24.8.1572 (разня пратэстантаў у Парыжы), у падрыхтоўцы якіх удзельнічаў Генрык, выклікалі выступленні супраць яго кандыдатуры пратэстантаў Рэчы Паспалітай. Аднак пасланец ад Францыі біскуп дэ Манлюк здолеў атрымаць падтрымку большасці сенатараў і шляхты, што сабраліся для выбараў новага караля. Ён даў пісьмовае пацвярджэнне ўмоў, на якіх Г. В. будзе абраны каралём Рэчы Паспалітай, т. зв. *Генрыкавы артыкулы.* Г. В. абавязваўся таксама пабрацца шлюбам з Ганнай Ягелонкай адразу па прыездзе ў Польшчу. Падпісана таксама дамоўленасць пра ваен. і фінансавыя адносіны Рэчы Паспалітай і Францыі (pacta conventa), умовы пакарання франц. урадам удзельнікаў Варфаламееўскай разні і ўстанаўленне міру з гугенотамі (postulata polonica). На элекцыйным сейме ў Варшаве 11.5.1573 гнезненскі арцыбіскуп Уханскі абвясціў выбранне Г. В. каралём польскім і вял. кн. літоўскім. 16.5.1573 пасля атрымання канчатковай згоды часткі паслоў-пратэстантаў надворныя маршалкі, каронны і літоўскі, афіцыйна абвясцілі абранне на трон Г. В. 18.2.1574 Г. В. прыехаў у Кракаў, 24.2.

1574 адбылся каранацыя і прыняцце прысягі ў адпаведнасці з Генрыкавымі артыкуламі. Большасць паслоў сейма, бачачы няздольнасць Г. В. выканаць фінансавыя і ваен. абавязкі, патрабавала паўтарэння прысягі па кожным пункце асобна. У многіх ваяводствах шырыўся рух за пазбаўленне Г. В. прастола. Не ўдалося, як гэта прадугледжвалі Генрыкавы артыкулы, стварыць пры каралю дарадчы орган з 16 сенатараў і паслоў. Незадавальненне выклікала і нежаданне Г. В. ажаніцца з Ганнай Ягелонкай. 30.5.1574 у Францыі памёр Карл IX Сенат Рэчы Паспалітай пастанавіў, што рашэнне пра ад'езд караля можа прыняць толькі вальны сойм. У ноч на 19.6. 1574 Г В. тайна выехаў з Кракава. Падкаморы каронны Ян Тэнчынскі дагнаў яго, але дамогся толькі абяцання вярнуцца ў Рэч Паспалітую, як толькі ўладкуе справы ў Францыі У Францыі Г. В. абралі каралем пад імем Генрыха III, і ў Рэч Паспалітую ён не вярнуўся. Быў забіты дамініканскім манахам у час асады Парыжа войскамі гугенотаў. Да канца жыцця Г В. карыстаўся тытулам караля польскага і вял. князя літоўскага

*Літ* Grzybowski S Henryk Walazy Wrocław etc, 1985; Лаппо И И Великое княжество Литовское за время от заключения Люблинской унии до смерти Стефана Батория (1569—1586) Спб, 1901 Т 1 С 103—114, Трачевский А Польское безкоролевье по прекращении династии Ягеллонов Ист исслед. М., 1869 *С Канаплева*

**ГЕ́НРЫКАВЫ АРТЫ́КУЛЫ** (Articuli Henriciani), акты пра абмежаванне вярх улады ў Рэчы Паспалітай соймам, прынятыя ў 1574 пры абранні каралем і вял. кн. *Генрыка Валезы* Складаліся з 18 пунктаў, паводле якіх кароль не меў права прызначаць сабе пераемніка, мець зносіны з замежнымі дзяржавамі, прызначаць паспалітае рушэнне. Кароль пазбаўляўся заканадаўчага і судовага права, абмяжоўвалася яго права ўстанаўліваць падаткі. Пацвярджалася права ўласнасці феадалаў. Кароль абавязваўся падтрымліваць рэлігійны мір у краіне, сам ён і ў мірны час павінен быў знаходзіцца пад апекай 16 сенатараў, а калі ён не выконваў узятых на сябе абавязкаў, то ўсе жыхары Рэчы Паспалітай рабіліся вольнымі ад падпарадкавання і вернасці каралю.

*С Канаплева*

**«ГЕ́НРЫХ»** («Heinrich»), кодавая назва карнай аперацыі ням.-фаш. захопнікаў у Вял. Айч. вайну супраць партыз. брыгад і мясцовага насельніцтва *Расонска-Асвейскай партызанскай зоны,* Латвійскай партыз брыгады, 13 партыз брыгад Калінінскай вобл ў раёне, абмежаваным чыг і шашэйнымі дарогамі Себеж — Пустошка, Пустошка — Невель — Полацк, Полацк — Дрыса, Дрыса — Асвея — Себеж. Праводзілася 31 10—9.11 1943 пад агульным кіраўніцтвам спец. упаўнаважанага Гімлера па барацьбе з партызанамі обергрупенфюрэра СС Бах-Зелеўскі. Гітлераўцы наступалі 2 магутнымі групоўкамі з Пн з раёнаў Себежа, Ідрыцы, Пустошкі і з Пд ад ст Дрэтунь да шашы Полацк — Себеж. У іх склад уваходзілі 5 паліцэйскіх палкоў СС,

Вокладка зборніка вершаў Л Геніюш «Невадам з Немана» 1967

7 ахоўных батальёнаў, у т. л. асобы батальён СС Дырлевангера, шматлікія танкавыя, артыл., саперныя і іншыя падраздзяленні, зондэр- і айнзатцкаманды. Разгарнуўшы асн. сілы фронтам на З і У, гітлераўцы імкнуліся рассячы партыз. зону на 2 часткі, стварыць 2 «катлы», прыціснуць партызан на З ад загараджальнай лініі па Зах. Дзвіне і граніцы з Латвіяй, а на У — да чыгункі.

Аперацыя пачалася з масіраваных паветраных удараў па вёсках, больш за 20 з іх былі спалены фашыстамі. Падпольныя парт. органы, камандаванне партыз. брыгад прынялі меры па выратаванні жыхароў. Пад канец 5-га дня жорсткіх і кровапралітных баёў гітлераўцам удалося рассячы зону, захапіць плацдарм на р. Дрыса каля в. Чарапоўка. На подступах да блакіраванай фашыстамі партыз зоны актыўныя баявыя дзеянні пачалі войскі 1-га Прыбалт. фронту. Плацдарм гітлераўцаў каля в. Чарапоўка быў знішчаны ўдарамі сав. авіяцыі. Часці сав. 3-й ударнай арміі, зламаўшы супраціўленне гітлераўцаў на ПдЗ ад Невеля, прарваліся да загараджальных ліній карнікаў на р. Дрыса, Уша, Ужыца, 6 ліст. фарсіравалі іх і злучыліся з партызанамі 2-й, 6, 11, 21-й Калінінскіх брыгад і Расонскай брыгадай імя Сталіна, якія разам з Чырв. Арміяй грамілі адступаючага праціўніка. 7 ліст. партызаны Расонскай брыгады каля в. Слабада акружылі і поўнасцю знішчылі карны батальён Прарыў часцей 3-й ударнай арміі і злучэнне з імі часткі партыз. брыгад вымусілі карнікаў на ўсх. участку аперацыі «Г» перайсці да абароны па лініі ст Дрэтунь — паўд. бераг воз. Нешчарда. Баявыя групы карнікаў былі перададзены ў распараджэнне 3-й танкавай і 16-й армій гітлераўцаў

*Літ* Гл пры арт *Акупацыйны рэжым* *У С Пасэ*

**ГЕ́НРЫХ ЛАТВІ́ЙСКІ** (Heinrich von Lettland; каля 1187—1259), нямецкі храніст сярэднявечча. З 1205 жыў у Рызе. Апалагет каталіцкай царквы, ідэолаг нямецкай крыжакоў. Ухваляў дзейнасць хрысціянскіх місіянераў і агрэсію рыцараў у Прыбалтыцы. Аўтар «Хронікі Лівоніі» (напісана ў 1224—27 на лац. мове), якая з'яўляецца каштоўнай крыніцай вывучэння барацьбы Полацка, Ноўгарада, Пскова, прыбалт народаў супраць ням агрэсіі ў канцы 12—1-й чвэрці 13 ст Вылучаецца дэталёвым апісаннем фактаў, дакладнасцю імён, геагр. назваў, храналогіі.

*Тв* Хроника Ливонии 2 изд М, Л, 1938

*Літ* Зутис Я Я Очерки по историографии Латвии Ч 1 Рига, 1949, Хроника Генриха Латыша, как подспорье к изучению древней истории северо-западного края // Виленский вестн 1867 № 83—107

*С А Шчарбакоў*

**ГЕНУ́ЭЗСКАЯ КАНФЕРЭ́НЦЫЯ 1922,** міжнародная канферэнцыя па эканамічных і фінансавых пытаннях. Адбылася 10 4—19.5.1922 у г Генуя (Італія). Удзельнічалі 29 дзяржаў (у т. л. РСФСР) і 5 дамініёнаў Вялікабрытаніі. Дэлегацыя РСФСР прадстаўляла на канферэнцыі таксама інтарэсы інш. савецкіх рэспублік (Азербайджанскай ССР, Армянскай ССР, Беларускай ССР, Грузінскай ССР, Украінскай ССР, Бухарскай Народнай Рэспублікі, Харэзмскай Народнай Рэспублікі, Далёкаўсходняй Рэспублікі), мела паўнамоцтвы заключаць і падпісваць ад іх імя выпрацаваныя на канферэнцыі акты, асобныя міжнар. дагаворы і пагадненні. Асн. мэта канферэнцыі — пошукі шляхоў эканам. аднаўлення Цэнтр. і Усх. Еўропы пасля 1-й сусв. вайны. Прадстаўнікі гал краін Еўропы запатрабавалі ад Сав. Расіі прызнаць усе даўгі і фінансавыя абавязацельствы царскага і Часовага ўрадаў, вярнуць нацыяналізаваныя прадпрыемствы замежным уладальнікам, адмяніць манаполію знешняга гандлю. Дэлегацыя РСФСР адхіліла гэтыя прэтэнзіі і запатрабавала кампенсаваць ей страты ад іншаземнай інтэрвенцыі і эканам блакады. Дэлегацыі РСФСР не ўдалося дабіцца ў Генуі пастаўленых перад ею задач. ануляваиня даўгоў, атрымання крэдытаў, прызнання Сав. дзяржавы дэ-юрэ Але сав. дыпламатыя змагла, выкарыстоўваючы міждзяржаўныя супярэчнасці, заключыць 16.4. 1922 у Рапале (каля Генуі) дагавор паміж РСФСР і Германіяй, які аднаўляў нармальныя паліт., дыпламат. і эканам. сувязі паміж імі. 5.11.1922 умовы Рапальскага дагавора былі распаўсюджаны на БССР, што азначала прызнанне Германіяй БССР дэ-юрэ і мела сваім вынікам устанаўленне дыпламат. адносін паміж імі Германія была другой пасля Польшчы і апошняй замежнай краінай, якая прызнала БССР дэ-юрэ.

Імкнучыся выкарыстаць Г. к., каб дабіцца міжнар. прызнання БНР, Рада

міністраў БНР 19.4.1922 прыняла рашэнне адправіць у Геную бел. дэлегацыю ў складзе Старшыні Рады міністраў В. Ластоўскага і міністра замежных спраў А. Цвікевіча. Перад ёй былі пастаўлены задачы: узняць пытанне аб пераглядзе *Рыжскага мірнага дагавора 1921*; дабіцца ўключэння ў парадак дня канферэнцыі пытання аб незалежнасці Беларусі; выставіць патрабаванне аб кампенсацыі страт, якія панесла Беларусь у выніку 1-й сусв. вайны. Дэлегацыя БНР прыбыла ў Геную 27.4.1922. Наведала генуэзскага арцыбіскупа, якому ўручыла мемарандум аб становішчы каталікоў-беларусаў у Зах. Беларусі з просьбай перадаць яго папе рымскаму. 2.5.1922 Ластоўскі і Цвікевіч правялі шэраг сустрэч з неафіц. дэлегацыямі Усх. Галіцыі, Грузіі, Азербайджана, Кубані, Украіны, а таксама мелі гутарку з дэлегацыяй Вялікабрытаніі. 3.5.1922 дэлегацыя БНР нанесла візіт старшыні Г. к. прэм'ер-міністру Італіі Л. Факта і ўручыла яму мемарандум урада БНР. У дакуменце даваўся кароткі гіст. агляд руска-польскіх войнаў на тэр. Беларусі, звярталася ўвага ўдзельнікаў канферэнцыі на тое, што прэтэнзіі Сав. Расіі і Польшчы на тэр. Беларусі не маюць пад сабой ніякіх палітыка-прававых асноў, змяшчалася просьба аб пераглядзе Рыжскага мірнага дагавора і ў выніку яго адмены — прызнанні незалежнасці БНР. Адначасова быў уручаны зварот замежнай групы ЦК Бел. партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў (БПСР) з просьбай не прызнаваць Рыжскага дагавора і, кіруючыся этнаграфічнымі дадзенымі,ануляваць праведзены ў Рызе падзел Беларусі. У звароце змяшчалася просьба прадставіць бел. народу свабоду ўстанаўлення дзярж. ладу і права свабоднай канфедэрацыі. Мемарандум урада БНР разглядаўся ў паліт. камісіі, якая азнаёмілася з паліт. і эканам. становішчам Беларусі. Але з-за перашкод, учыненых дэлегацыямі РСФСР і Польшчы, бел. пытанне не было вынесена на разгляд пленарнага пасяджэння канферэнцыі. У сувязі з гэтай няўдачай Ластоўскі вырашыў падтрымаць дэлегацыю Літвы, спадзеючыся на яе падтрымку ў адказ. Ластоўскі і Цвікевіч падалі запіску аб далучэнні да Літвы Віленшчыны з Вільняй і Гродзеншчыны. Гэты крок выклікаў незадавальненне ў асяроддзі бел. эміграцыі, у т. л. з боку БПСР. Дэлегацыя БНР не змагла дабіцца на Г. к. пастаўленых задач, што стала адным з фактараў, якія абумовілі крызіс урада БНР.

У сувязі з безвыніковасцю Г. к. абмеркаванне фінансава-эканам. пытанняў было прадоўжана на канферэнцыі ў Гаазе (чэрв.— ліп. 1922), якая таксама скончылася беспаспяхова.

*Кр.:* Материалы Генуэзской конференции: [Полный стеногр. отчет]. М., 1922.

*Літ.:* История дипломатии. Т. 3. 2 изд. М., 1965; Ковкель И., Сташкевич Н. Почему не состоялась БНР? Мн., 1980; Ковалёва Л. Забытые страницы истории: (Борьба представителей БНР за независимость Белоруссии на Генуэзской конференции). Могилев, 1992; Dingley J. Łastoŭski as politician // Journal of Byelorussian Studies. 1984. № 3—4. *У. Е. Снапкоўскі.*

**ГЕРАДО́Т** (Hēródotos; паміж 490 і 480, г. Галікарнас, Малая Азія — паміж 430 і 424 да н. э.), старажытнагрэчаскі гісторык. Шмат падарожнічаў, наведаў Вавілон, Фінікію, Егіпет, Кірэну, Фракію, Сіцылію, а-вы Эгейскага мора, гарады Пелапанеса, Сярэдняй Грэцыі і інш. Веды і ўражанні вандровак выкарыстаў пры напісанні сваёй «Гісторыі», прысвечанай асвятленню прычын і падзей вайны грэкаў з персамі (500—449 да н. э.), гісторыі краін і народаў у складзе Персідскай дзяржавы, апісанню іх побыту, культуры, геагр. становішча. Названы сучаснікамі «бацькам гісторыі». Пазней яго «Гісторыя» была падзелена на 9 кніг (па колькасці грэч. муз). 4-я з іх — «Мельпамена», прысвечаная Скіфіі і яе наваколлю і з'яўляецца самай ранняй пісьмовай крыніцай пра насельніцтва тэр. сучаснай Беларусі, з якой таксама звязвалі герадотавых неўраў і будзінаў. Непасрэднае да бел. зямель дачыненне маюць герадотавы скіфы-земляробы (паўночныя) і андрафагі, якія, паводле Г., жылі ў верхнім цячэнні Барысфена (бас. Дняпра, цэнтр. і паўн. часткі Беларусі). Магчыма, характарыстыка андрафагаў як жорсткіх і бясчынных канібалаў адпавядала пэўным міфалагізаваным уяўленням грэкаў і скіфаў пра далёкія паўн. плямёны. Назва племені андрафагаў, пададзеная Г., верагодна, мянушка, а сапраўдная саманазва — амадокі (у Пталамея). Імі, магчыма, пакінуты помнікі *днепра-дзвінскай культуры* на Віцебшчыне і падобныя да іх старажытнасці тыпу ніжніх пластоў Лабеншчыны на Міншчыне. Выяўленыя на Пд ад іх ніжэй па Бярэзіне і Дняпры археал. помнікі *мілаградскай культуры* звязваюць з герадотавымі скіфамі-земляробамі, якія, па яго перакананню, насялялі берагі Дняпра да андрафагаў. На мілаградскіх археал. помніках Гомельшчыны адзначаны моцны ўплыў скіфскіх тыпаў прылад працы, узбраення, упрыгожанняў. Магчыма, мілаградскае насельніцтва паўд.-ўсх. Беларусі мела ў 5 ст. да н. э. трывалыя сувязі са скіфамі.

*Літ.:* Доватур А. И., Каллистов Д. П., Шишова И. А. Народы нашей страны в «Истории» Геродота. М., 1982; Рассадзін С. Я. Герадотавы андрафагі // Весці АН Беларусі. Сер. грамад. навук. 1992. № 3—4; Яго ж. Будзіны, неўры ці скіфы?: Праблема дачынення Герадотавых плямёнаў да тэрыторыі Беларусі // Актуальныя пытанні гісторыі Беларусі ад старажытных часоў да нашых дзён: Зб. арт. Мн., 1992. *С. Я. Расадзін.*

**ГЕРА́ЛЬДЫКА** (позналац. heraldica ад heraldus вяшчальнік), гербазнаўства, сістэма ведаў пра *гербы*, правілы іх складання і выкарыстання; дапаможная гіст. дысцыпліна, якая вывучае старажытныя (тэарэтычная Г.) і стварае новыя (практычная Г.) гербы. Садзейнічае вывучэнню *генеалогіі* і матэрыяльнай культуры, дапамагае вызначыць прыналежнасць, датаванне месца вытворчасці і інш. дэталі, якія адносяцца да рэчавых помнікаў. Г. мае значэнне і пры вывучэнні пісьмовых крыніц. Цесна звязана з генеалогіяй, *сфрагістыкай, нумізматыкай* і інш. гіст. дысцыплінамі.

Стваральнікамі Г. як асобнай галіны ведаў сталі герольды, якія перад пачаткам турніра абвяшчалі герб рыцара як доказ яго права на ўдзел у дваяборі. Першыя творы па Г.— вершы і паэмы паэтаў-герольдаў — з'явіліся ў 2-й пал. 13 ст. Найб. стараж. твор па Г.— «Цюрыхскі гербоўнік» 1-й пал. 14 ст. З 14 ст. ў еўрапейскіх краінах узніклі герольдыі — установы, якія займаліся тэарэтычнымі і практычнымі пытаннямі Г., з'явілася вял. колькасць гербоўнікаў-даведнікаў. Паступова рэгістрацыяй гербаў, іх стварэннем і наданнем, праверкай правоў іх уладальнікаў і інш. пытаннямі пачалі займацца і дзярж. органы. З узнікненнем саслоўнай манархіі права надання і зацвярджэння гербаў стала выключнай прывілеяй манархаў. Адной з істотных крыніц бел. Г. была польская геральдычная традыцыя, якая праз уплыў немцаў і чэхаў шмат у чым успрыняла агульнаеўрапейскую. Больш інтэнсіўнае развіццё Г. ў ВКЛ пачалося пасля заключэння *Гарадзельскай уніі 1413*. Паводле яе ўмоў 47 найбольш знатных родаў ВКЛ атрымалі гербы, якімі да гэтага карысталіся польскія шляхціцы. Лічылася, што шляхціцы ВКЛ, якія прынялі прапанаваныя гербы, пабраталіся з уладальнікамі гэтых гербаў. На Беларусі ў Г. была ўнесена вял. колькасць мясцовых сюжэтаў. Бел. герб упершыню апісаны ў працах Я. Длугаша (15 ст.). У 16—17 ст. былі пашыраны эпіграмы, урачыстыя вершы, прысвечаныя гербам знатных асоб і гарадоў (аўтары А. Рымша, Л. Мамоніч і інш.). У 16—18 ст. распаўсюдзілася гарадская геральдыка. Уласныя гербы мелі больш за 100 бел. гарадоў. Пасля далучэння Беларусі да Расійскай імперыі ў выніку падзелаў Рэчы Паспалітай з канца 18 ст. бел. Г. займалася Гербавае аддзяленне Сената. Прыкладаліся намаганні для знішчэння бел. гістарычнай Г. шляхам надання новых і змены ранейшых гарадскіх і зямельных гербаў. У перыяд знаходжання Беларусі ў складзе СССР Г. была ў заняпадзе. Цікавасць да яе значна ўзмацнілася ў сувязі з зацвярджэннем у якасці *Дзяржаўнага герба Рэспублікі Беларусь* стараж. сімвала *«Пагоня»*, які змяніў Дзяржаўны герб Беларускай ССР. Матэрыялы па бел. Г. змешчаны ў шматлікіх гербоўніках, у т. л. ў «Агульным гербоўніку дваранскіх родаў Усерасійскай імперыі» (выд. 1797—1917).

*Літ.:* Лакиер А. Б. Русская геральдика. М., 1990; Арсеньев Ю. В. Геральдика. М., 1908; Каменцева Е. И., Устюгов Н. В. Русская сфрагистика и геральдика. 2 изд. М., 1974; Большаков А. М. Вспомогательные исторические дисциплины. 4 изд. Л., 1924; Драчук В. С. Рассказывает геральдика. М., 1977; Соболева Н. А. Российская городская и областная геральдика XVIII — XIX вв. М., 1981; Матковски А. Грбовите на Македонија. Скопје, 1970; Wielądko W. Heraldyka czyli apisanie herbow... familie rodowitey szlachty Polskiej i W. X. Litewskiego... T. 1—

5 Warszawa, 1792—98, гл таксама пры арт Герб *А К Цітоў*

**ГЕРАНЁНСКІ ЗА́МАК**, помнік палацава-замкавай архітэктуры канца 15—18 ст каля в. *Геранены* Іўеўскага р-на. Пабудаваны, верагодна, на мяжы 15—16 ст, калі Геранёнамі валодаў канцлер ВКЛ і віленскі ваявода Войцах Гаштольд. Замак размяшчаўся на штучнай выспе, насыпанай з зямлі, выкінутай з рова, які абкружаў замчышча. Перад ровам быў земляны вал вышыней 9—10 м, шырыней каля 15 м і даўжыней па перыметры больш за 700 м Вал у плане нагадваў выцягнуты прамавугольнік з закругленымі вугламі Абарона Г з ие была разлічана на прыродныя перашкоды і не мела штучнага абваднення. Толькі знешні абарончы роў на асобных участках мог напаўняцца вадой у час веснавога таяння снегу або ўвосень, калі ішлі дажджы. Характар першапачатковых навальных канструкцый Г. з. не высветлены, але, ідаць, гэта былі звычайныя драўляныя цены Замак меў выгляд квадрата (27 × 27 м), на кожным вугле якога стаялі мураваныя цыліндрычныя вежы (дыяметр 8 м) Даследаванне (1972, М А. Ткачоў) уцалелых рэшткаў сцен і вежаў паказала, што яны былі складзены ў традыцыйнай для Беларусі тэхніцы паласатай муроўкі з шырокім выкарыстаннем каменю і цэглы, якая ішла ў асн. на абліцоўку вежаў. Вапнавы раствор мае нязначны дамешак тоўчанай гліны і вызначаецца трываласцю. Сцены замка таўшчыней 1,4 м на асобных участках дасягаюць цяпер вышыні 4 м. Першапачаткова яны былі не намнога вышэйшыя за вонкавы абарончы вал, які прызначаўся, магчыма, у першую чаргу для прыкрыцця Г з ад прамога абстрэлу Завяршэнне замкавых сцен было, відаць, цаглянае. Падмуркі вышыней 1 м зроблены з вял. камянёў (70 × 50 см), пакладзеных на вапне Прамежкі паміж імі старанна заштукаваны кавалкамі цэглы і раствору. Двухметровай таўшчыні сцены вежаў складзены з каменю (муроўка лускаватая) і звонку абліцаваны цэглай (муроўка гатычная). Таўшчыня вапнавага раствору 2—3,5 см. Цэгла — буйнапамерная, баразнаватая, памерамі 29,5 × 13 (14) × 6 (8,5) см. Глыбіня залягання падмурка вежаў і сцен каля 1 м. Падмуркі перавязаны, а лініі каменнай і цаглянай муроўкі супадаюць. Аднолькавыя тэхніка муроўкі і памеры цэглы сведчаць пра адначасовасць будавання сцен і вежаў Паўн -зах вежа мела скляпеністае перакрыцце, якое раздзяляла 2 ніжнія паверхі (захаваўся аконны праем ніжняга паверха вышыней 1 м і шырыней 0,6 м з гатычнай аркай). Да паўд сцяны замка ў канцы 16 ст прыбудаваны палац (у 1565 палац у Г з. быў яшчэ драўляны) Інвентар замка за 1765 паказвае палац як 2-павярховы будынак на 12 акон, у якім на 1-м паверсе размяшчаліся розныя службы, на 2-м — парадныя пакоі Дах вянчалі па вуглах бляшаныя зоркі, а па цэнтры — флюгер у выглядзе бляшанага бусла. Аднак сцены замка ўжо былі моцна пашкоджаны. Пры раскопках знойдзена плоская і ка-

Да арт Геральдыка. Радавы герб «Дуброва» і радаводнае дрэва Малюнак пач 19 ст Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь

рытападобная чарапіца, якой накрывалі дахі вежаў, а таксама дахі над баявым ходам сцен і палац.

Г. з. узводзіўся ў тыя часы, калі значна вырасла роля артылерыі У сувязі з гэтым аси цяжар абароны сталі пераносіць на вонкавыя ўмацаванні — равы і валы Валы рабілі такія высокія, каб яны надзейна закрывалі гал частку замкавага будынка, і на значнай адлегласці ад яго. У Г. з., напр., валы аднесены на 80 м. Цэнтр абароны тут акцэнтаваны на знешнім вале (цяпер дасягае вышыні 10 м). З унутранага боку яго зроблена мураваная сцяна таўшчыней 1,25 м і вышыней 4,5 м, якая выконвала ролю падпорнай сценкі і надзейна прадухіляла апаўзанне вала ўнутр замкавага двара Пад яе заслонай у час аблогі маглі перамяшчацца воіны гарнізона, пра што сведчыць брукаваная дарожка каля самага нізу сцяны. Пасля адной з падсыпак вала будаўнікі вымушаны былі падмацаваць сценку вял. контрфорсамі — «бычкамі», узведзенымі амаль праз кожныя 3—3,5 м. Падпорная сцяна і «бычкі» выкананы ў тэхніцы паласатай муроўкі з выкарыстаннем вялізных (каля 1 м) абчасаных камянёў і цэглы, пакладзеных на вапне. Цэгла, як і на замку, баразнаватая. Адрэзкі падпорнай сценкі зыходзіліся ў вуглах вала і пераходзілі ў 7-кантовыя вежы-рандэлі (таўшчыня сцен 1,75 м), якія з'яўляліся важнымі агнявымі пунктамі Можна меркаваць, што яны былі 2-павярховыя, з бэлечным перакрыццем, ніжні паверх (выш. каля 4,5 м) поўнасцю знаходзіўся ў тоўшчы вала. Тут, напэўна, хавалі ваен. прыпасы і рыштунак. 2-і паверх пачынаўся ад паверхні вала і нагадваў 7-кантовы мураваны бастыен з перыметрам сцен каля 25 м. Гэта дазваляла размясціць тут некалькі гармат або некалькі дзесяткаў салдат. На 2-і паверх вяла мураваная лесвіца, якая пачыналася каля самага нізу падпорнай сцяны, у стыку яе з рандэлем Значную агнявую сілу можна было сканцэнтраваць і на самім земляным вале На асобных участках, асабліва з У, дзе быў уезд у замак, шырыня вяршыні вала дасягае цяпер 6—7 м. На такой пляцоўцы можна было размясціць ці традыцыйныя драўляныя сцены вянковай або парканнай канструкцыі ці характэрныя для 16—17 ст земляныя брустверы Абарончы роў тут дасягае глыбіні 4 м і шырыні 15 м. Уязная замкавая брама размяшчалася ў ніжнім паверсе паўд -зах рандэля, сцены якога мелі таўшчыню каля 2,2 м. Да брамы траплялі па перакінутым цераз роў лёгкім драўляным мосце Частка моста перад ёй, магчыма, падымалася на ланцугах. Уезд у замак трымаўся пад абстрэлам з

Геранёнскі замак. Рэканструкцыя па матэрыялах М Ткачова Мастак Я Кулік

верхняй часткі брамы і з прымыкаючых да яе гародняў. Справа ад брамы існаваў бастыенападобны выступ, які фланкіраваў агнем мост і бліжэйшыя доступы да брамы Такі элемент абароны з'яўляецца адным з першых вядомых на Беларусі і датуецца пач 16 ст. Гэта як бы правобраз тых бастыенаў і бастыеннай сістэмы ўмацаванняў, якія шырока распаўсюдзіліся на Беларусі ў 2-й пал. 16—17 ст Дадатковай перашкодай на шляху ў замак з'яўляўся і Гераненскі мураваны касцёл (пабудаваны ў 1519) Абнесены мураванай сцяной, ён прымыкаў непасрэдна да абарончага рова перад брамай.

З ваен. пункту гледжання Г з у пач 16 ст. быў магутным збудаваннем Ён увабраў у сябе амаль усе вядомыя тады элементы фартыфікацыі, якія дазвалялі на працягу доўгага часу процістаяць тагачаснай тактыцы і тэхніцы аблогі. Да 1542 Г. з. валодалі Гаштольды, потым — вял. кн ВКЛ і каралі Польшчы Жыгімонт І Стары і Жыгімонт ІІ Аўгуст, да 1588 — розныя асобы, пазней Сапегі, з 1643 — падскарбі Мікалай Кішка. У вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 замак разбурыла рус. войска, але, верагодна, хутка ён быў адноўлены. З 1670 замак і в Геранены на дзярж утрыманні У 1708 у Г з. з атрадам шведскага войска размяшчаўся польскі кароль Станіслаў Ляшчынскі Пасля Паўн вайны 1700—21 замак прыйшоў у заняпад. У пач. 19 ст. ў Г. з. ўжо не жылі, у сярэдзіне стагоддзя значную частку руін разабралі на ўзвядзенне ў в. Ліпнішкі розных гасп. будынкаў. Н. Орда замаляваў у сярэдзіне 19 ст. толькі руіны Г з вышыней да 1-га паверха

*Літ* Ткачоў М А Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII—XVIII стст Мн, 1978 *М А Ткачоў*

**ГЕРАНЁНЫ**, веска, цэнтр сельсавета Іўеўскага раена За 22 км на ПнЗ ад Іўя, 14 км ад чыг ст. Гаўя, шашой злучаны з Іўем. 1291 жыхар, 403 двары (1993)

У пісьмовых крыніцах 15—16 ст вядомы як Г. Мураваныя або Гаштольдавы ў адрозненне ад Г Манівідавых (цяпер в. Суботнікі) і Г. Старых (цяпер в. Зыгмунцішкі) У 1433 вял. князь ВКЛ Жыгімонт Кейстутавіч падараваў двор Г. Яну Гаштольду Каля 1458 тут пабудаваны касцел. На мяжы 15—16 ст. ваявода віленскі і канцлер ВКЛ Альбрэхт Гаштольд пабудаваў *Гераненскі замак*, а ў 1519 — Мікалаеўскі касцел. У 1520 мяст. Ашмянскага пав. Віленскага ваяводства. Пасля смерці Станіслава Гаштольда Г. ўласнасць вял. князеў ВКЛ. У 1575, у час «бескаралеўя», тут адбылося некалькі з'ездаў шляхты. У 17—18 ст. цэнтр староства, у 1625 заснаваны шпіталь. У 1670 гетман вял літ. Міхал Пац запісаў Г на ўтрыманне артылерыі ВКЛ і віленскага арсенала У 18 ст старостамі гераненскімі былі Мнішкі, Салагубы, Браніцкія. У 1-й пал. 18 ст ў Г. некаторы час знаходзілася рэзідэнцыя віленскіх біскупаў, пры якой у 1730—38 дзейнічала школа Пры каралю Аўгусце III (1733—63) Г. атрымалі магдэбургскае права (паводле іншых крыніц, у 1630-я гады), мелі герб (з 1792, у зяленым полі пранізанае мячом сэрца)

Радавы герб «Лук» Малюнак пач 19 ст Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь

Радавы герб «Кораб» Малюнак пач 19 ст Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь

Герб Геранёнаў. 1792

З 1795 у Расійскай імперыі, у Ашмянскім пав. Уласнасць Корвін-Мілеўскіх У 1880-я гады 243 жыхары, 27 двароў, касцел, багадзельня, бровар, карчма. У пач. 20 ст 316 жыхароў. У маентку багатая калекцыя твораў мастацтва У час 1-й сусв. вайны ў 1915—18 акупіраваны германскім войскам, у 1919—20 займаліся Чырв. Арміяй, польскім войскам. У 1920—22 у складзе Сярэдняй Літвы, з 1922 — Польшчы, у Ашмянскім пав. З 1939 у БССР, у Іўеўскім р-не, з 12.10.1940 цэнтр сельсавета. У 1941—44 акупіраваны ням -фаш. войскам. З 15 5 1963 па 6.8.1979 у Жылеўскім сельсавеце У 1970 397 жыхароў, 136 двароў Цэнтр аб'яднання сялянскіх гаспадарак «Ніва» Сярэдняя школа, Дом культуры 4 магазіны. У весцы магіла сав. воіна які загінуў у 1941. Захаваліся помнікі архітэктуры Мікалаеўскі касцел, руіны замка

*Літ* Maliszewski E Przewodnik po gubernji Wilenskiej Zarys statystyczno-opisowy Warszawa, 1919 S 24 *В У Шаблюк*

**ГЕРА́СІМАЎ** Рыгор Пятровіч [15(28) 1.1905, г. Невель Віцебскай губ., цяпер Пскоўскай вобл. Расіі — 22.3 1961], адзін з кіраўнікоў партыз руху на Беларусі ў Вял. Айч. вайну З 1919 у Чырв Арміі. З 1932 на сав., гасп. і парт. рабоце У партызанах з мая 1942: камандзір групы, з ліп 1942 камісар, у вер. 1942—студз. 1944 камандзір 1-й Дрысенскай партыз. брыгады Віцебскай вобл., адначасова ў ліп 1942 — снеж. 1943 1-ы сакратар Дрысенскага падп РК КП(б)Б З 1944 на парт. і сав. рабоце.

**ГЕРАСІМЕ́НКА** Васіль Піліпавіч [11 (24).4.1900, в. Вял. Бурамка Залатаношскага пав. Палтаўскай губ, цяпер Чарнабаеўскі р-н Чаркаскай вобл.—13.2.1961], удзельнік абарончых баеў на Беларусі ў Вял. Айч. вайну, ген.-лейт. (1940) У Чырв. Арміі з 1918 Удзельнік грамадз. вайны. Скончыў Мінскую аб'яднаную ваен. школу (1927), Ваен. акадэмію імя Фрунзе (1931). З пачатку Вял Айч. вайны на Зах. фронце — камандаваў 21-й, 13-й арміямі (гл. *Магілева абарона 1941)* Войскі 28-й арміі пад яго камандаваннем удзельнічалі ў Сталінградскай бітве, вызвалялі Данбас Да 1953 у Сав. Арміі. Дэп. Вярх. Савета СССР у 1937—46.

**ГЕРАСІМЕ́НКА** Георгій Георгіевіч (24 4.1926, в. Хамінка Лоеўскага р-на — 21.6.1992), беларускі гісторык Д-р гіст навук (1981), праф. (1984). Скончыў БДУ (1957). З 1960 выкладчык, дацэнт БДУ, у 1976—1991 заг кафедры Бел ін-та нар. гаспадаркі. Даследаваў паліт гісторыю Беларусі.

*Тв* Работа КПБ по вовлечению трудящихся масс в управление государством в годы первой пятилетки (1928—1932 гг) Мн, 1962, Деятельность Компартии Белоруссии по вовлечению трудящихся масс в управление государством, 1925—1937 Мн, 1973

**ГЕРАСІМЕ́НКА** Назар Яўстратавіч (падп. псеўд. Мікалай; 1903, чыг. ст Пціч Мазырскага пав., цяпер Петрыкаўскі р-н — люты 1943), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў *Мінскага патрыятычнага падполля* ў Вял Айч вайну

З 1929 працаваў у Мінску на ф-цы «Камунарка», потым на сав. і парт. рабоце З 1931 член Камуніст партыі З першых дзен ням.-фаш. акупацыі Мінска стварыў і ўзначаліў падп. групу. З 1942 сакратар Сталінскага падп райкома КП(б)Б г Мінска. На яго кватэры па вул. Няміга збіраліся падпольшчыкі, прымаліся сувязныя партыз атрадаў, захоўвалася зброя, боепрыпасы, медыкаменты, нелегальная л-ра. У падп рабоце ўдзельнічалі таксама яго жонка Тацця на і 12-гадовая дачка Люся. У кастр. 1942 гітлераўцы арыштавалі ўсю сям'ю і пасля катаванняў загубілі Яго імем названа вуліца ў Мінску, на доме, дзе жыла яго сям'я, устаноўлена мемар. дошка, на тэр СШ № 25 — бюст Люсі.

Н Я Герасіменка.

**ГЕРБ** (польск herb ад ням. Erbe спадчына), эмблема, спадчынны знак адрознення, спалучэнне фігур і прадметаў паводле рэгламентаваных норм *геральдыкі*, якім надаецца сімвалічнае значэнне і якія выражаюць гіст. традыцыі ўладальніка. Мае дзве асноўныя функцыі — рэпрэзентацыйную (прадстаўляе і адлюстроўвае праз сімволіку гіст. абставіны свайго ўзнікнення, дзяржаву, зямлю, горад або асобу, якім ен належыць) і распазнавальную (вылучае і падкрэслівае адметнасць свайго уладальніка). Падзяляюцца на дзяржаўныя, нацыянальныя, зямельныя (ваяводстваў, губерняў і г д.), гарадскія, карпарацыйныя (цэхавыя), радавыя і асабістыя. Змяшчаліся на харугвах, сцягах, шчытах, пячатках, зброі, хатнім начынні, рукапісах, творах мастацтва, манетах, будынках і інш. Асн. частка старадаўняга Г.— шчыт, на якім размяшчаліся гал геральдычныя фігуры (вяршыня, падножжа, пояс) і другарадныя (шлях, квадрат, ромб, круг, шчыток) На шчыце змяшчаліся і негеральдычныя фігуры, над шчытом — шлем, карона (княжацкая, графская, дваранская) і інш ўпрыгожанні Шчыт умоўна падзяляўся на некалькі палеў, кожнае з якіх мела свае значэнне. Існавалі асноўныя правілы стварэння і выкарыстання Г. прызнаваўся толькі сімвал, створаны ў адпаведнасці з правіламі геральдыкі; Г. не павінен быць тоесны іншаму гербу; род, мясцовасць, нацыя, дзяржава не могуць карыстацца адначасова больш чым адным Г.; Г. павінен быць арыентаваны на свайго носьбіта, г. зн. выява, якая гледачом успрымаецца як левая, з'яўляецца правай і наадварот, жоўты колер на Г. адпавядае золату, белы — серабру, гэтыя колеры не могуць спалучацца ў адным гербе (на белым полі, напр., нельга размяшчаць залатую эмблему і наадварот); ужываліся таксама чырвоны, блакітны, зялены і чорны колеры. Выявы людзей і жывел на Г выконваліся стылізавана без падкрэслівання дэталяў. Пры аб'яднанні двух Г. больш значны ставіўся ў правым баку шчыта, а падпарадкаваны ў левым (або адпаведна ўверсе і ўнізе).

У стараж славян і інш народаў папярэднікамі Г. былі радавыя і сямейныя маёмасныя знакі («знамены», «меткі», «клейны», «рубяжы» і інш ), якія ставілі на прадметах і рэчах. Феадальныя вярхі часоў Кіеўскай Русі карысталіся двух- ці трызубцамі (магчыма, стылізаваная выява сокала). Трызубец з'яўляўся і радавым знакам полацкага князя Ізяслава Уладзіміравіча (канец 10 ст.). Вырабы з выявамі двух- і трызубцаў знойдзены пры раскопках у г. Заслаўе Мінскага, в. Друцк Талачынскага і Лукомль Чашніцкага р-наў, Мінску, Полацку. Першыя прыватныя Г. ўзніклі ў часы крыжовых паходаў 11—13 ст. як апазнавальныя знакі рыцараў. Яны размяшчаліся на рыцарскім шчыце (адсюль традыцыйная форма Г.) На Беларусі Г. з'явіліся ў 14—15 ст., шырокае распаўсюджанне атрымалі пасля *Гарадзельскай уніі 1413*. Радавыя і асабістыя Г. сведчылі шляхецкую годнасць пэўных родаў або асоб Такія Г адрозніваюцца ад іншых шэрагам элементаў Шчыт можа быць тарчом (турнірны шчыт з адтулінай для дзіды), можа быць завершаны прылбіцай (шлем, гелм). На Г. свецкіх асоб прылбіца ўпрыгожана каронай (шляхецкай, графскай, княжацкай) і інш., на Г. асоб духоўнага сану — капелюшом (у рымакатолікаў і грэка-католікаў) або мітрай (у праваслаўных). Асабісты Г. надаваўся разам з правам асабістага (без права перадачы нашчадкам) шляхецтва або складаўся з 2, 4 і больш Г. Ведаючы правілы геральдыкі, па асабістым Г. можна дакладна вызначыць паходжанне і роднасныя сувязі яго ўладальніка. У 1-м полі ставіцца Г. бацькоўскага роду, у 2-м — мацярынскага, у 3-м — роду бабулі па бацьку, у 4-м — бабулі па маці, 5-м — прабабулі па бацьку (бабулі па бацьку) Больш складаныя Г сустракаюцца рэдка. Пастаўлены коса шчыт, прылбіца, павернутая ў профіль, сведчаць пра старадаўняе паходжанне роду (гл, напр., *«Астоя»*, *«Габданк»*, *«Даленга»*, *«Далива»* і інш.). Пасля Кастр падзей 1917, паводле дэкрэта ЦВК і СНК Расіі ад 10(23).11 1917 «Аб скасаванні саслоўяў і грамадзянскіх чыноў», правы на асабістыя Г былі абвешчаны скасаванымі

У 16—17 ст. на Беларусі надаваліся гарадскія Г, звычайна адначасова з наданнем гораду *магдэбургскага права* Выява гарадскога Г. размяшчалася на пячатцы горада, на будынку ратушы або магістрата. Пячатка горада не толькі прыкладвалася да магістрацкіх дакументаў, але і служыла, напр., у Менску, гарантам якасці тавараў, якія вывозілі з горада. На тавары вышэйшага гатунку ставілі дзве пячаткі, першага — адну. Менскія збройнікі мелі прывілей выліваць Г. горада побач з каралеўскім на цаўі і похвах кожнага зробленага мяча. Існавала асобая група гарадскіх Г з абарончай сімволікай. Сімвалы з выявамі зброі мелі гарады, размешчаныя на межах ВКЛ [Крычаў, Веліж, Віцебск, Берасце (Брэст), Мсціслаў]. На Г. многіх гарадоў былі абрысы абарончых вежаў, крапасных сцен (Камянец, Любча, Барысаў, Магілеў). Існавалі Г., на якіх спалучаліся абарончыя і арх сюжэты

Цэхавыя гербы полацкіх гарбароў 1684 (злева), навагародскіх шаўцоў 19 ст Рэканструкцыя А К Цітова

(Астрына). Удакладніць, з'яўляюцца выявы на такіх Г. фіксацыяй пабудоў, якія існавалі, ці гэта толькі графічныя сімвалы, цяжка Часам гарадскі Г надаваўся ў сувязі з пэўнымі падзеямі. Напр, у 1661, пасля паўстання ў ходзе вайны Расіі з Рэччу Паспалітай, атрымаў другі Г Магілеў Шэраг гарадскіх Г. адлюстроўваў гасп дзейнасць гарадоў, іх гандлевыя сувязі і асн занятні гараджан Распаўсюджаны гарадскія Г, якія з'яўляюцца сімваламі гандлю, суднаходства (Друя, Дзісна, Полацк і інш). Гарады з такой сімволікай, як правіла, знаходзяцца на буйных водных артэрыях (Зах. Дзвіна, Дняпро і інш) Пры стварэнні Г. выкарыстоўвалася таксама прыватнаўласніцкая і ўладальніцкая геральдыка. Напр, 22 5 1793 Ашмяны атрымалі нехарактэрны для бел. геральдыкі Г., на якім шчыт падзелены на 3 полі· у 1-м змешчана выява рукі, якая трымае шалі (сімвал справядлівасці), у 2-м тарч (сімвал абароны грамадзянскіх правоў), у 3-м цяле (радавы Г. апошняга караля Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста Панятоўскага) Гарадскія Г, звязаныя з каралеўскай сям'ёй, мелі таксама Пружаны і Мазыр Г. або яго элементы роду Радзівілаў маюць Г. Нясвіжа, Капыля, Клецка Г. Слоніма, нададзены 4.1.1591, адлюстроўвае яго прыналежнасць канцлеру ВКЛ Л. Сапегу. Многія гарадскія Г. адносяцца да т. зв. штучных Г. з выявамі геральдычных жывёл: ільвоў, арлоў, крылатых коней, ваўкоў, ласёў, аленяў і інш. [Гародня (Гродна), Ліда, Гарадок, Слуцк і інш.]. Многія гарадскія Г мелі рэлігійную сімволіку· выявы Маці Боскай, архангелаў, святых і інш. (Мінск, Віцебск, Навагрудак, Радашковічы, Кобрын, Ушачы і інш). У выніку падзелаў Рэчы Паспалітай у канцы 18 ст пачалося знішчэнне бел. гарадской геральдыкі і зацвярджэнне новых Г бел гарадоў. Паводле «Даравальнай граматы гарадам» 1785 кожны горад Расійскай імперыі павінен быў мець Г. і ўжываць яго ва ўсіх гарадскіх дакументах. Ранейшыя Г., дапоўненыя новымі геральдычнымі атрыбутамі, захавалі Мінск, Мазыр Нясвіж, Пінск, Навагрудак; былі заменены Г Слоніма, Ашмян, Брэста, Дзісны, Кобрына, Мсціслава, Оршы, Пружан, Магілева і інш Атрымалі Г. некаторыя гарады і мястэчкі, якія не мелі іх раней (Бабінавічы Лезненскага р-на, Докшыцы, Сянно і інш.). З 19 ст на Г. гарадоў Мінскай і Гродзенскай губ. дадаткова змяшчаўся Г. цэнтра губерні; на Г. гарадоў Віцебскай і Магілеўскай губ дадаткова змяшчаўся двухгаловы арол — Г Расійскай імперыі. У час знаходжання Беларусі ў складзе СССР былі спробы стварыць прымітыўныя гарадскія Г, якія не адпавядаюць правілам геральдыкі Такія спробы маюць месца і сення

Значны пласт бел. геральдыкі складаюць карпарацыйныя Г. цэхаў рамеснікаў. Паводле зместу яны падзяляюцца на вытворчыя, рэлігійныя і абстрактныя. Найбольш пашыраны былі вытворчыя Г, якія адлюстроўвалі сродкі вытворчасці і прадукцыю цэхаў Напр, на Г з пячаткі (зроблена ў 1770) аб'яднання зегармістэрскага (гадзіннікавага), збройніцкага, слясарнага і кавальскага цэхаў змешчаны выявы гадзінніка, перакрыжаваных шабель і пісталета, конскай падковы і ключа Спалучэннем вытв. атрыбутыкі з'яўляецца Г менскага сталярскастальмашнага цэха 18 ст., на пячатцы якога выява «вока Боскага Наканавання» пад каронай, абкружаная наборам інструменту, якім карысталіся браты-рамеснікі. Г. з рэлігійнай сімволікай мелі некаторыя магілеўскія цэхі, менскі і полацкі кушнерска-гарбарскія цэхі На іх выявы анелаў, святых і інш. Г. з абстрактнай сімволікай не звязаны з вытворчасцю і рэлігійнымі сімваламі. Аднак на некаторых Г. можна прасачыць аса-

Цэхавыя гербы магілёўскіх седляроў і шубнікаў (1), злотнікаў (2), збройнікаў (3), краўцоў (4), магілеўскага купецкага брацтва (5), 17 ст
Рэканструкцыя А К Цітова

цыятыўныя сувязі. Напр., Г. магілеўскага аб'яднанага цэха мечнікаў, слесараў, кавалёў і катляроў (спецыялісты, звязаныя з ваеннай справай) была выява дзярж. Г ВКЛ «Пагоня».

Свае Г. мелі таксама рэлігійныя брацтвы, манастыры, грэка-каталіцкія, праваслаўныя і рымска-каталіцкія храмы. Царкоўныя пячаткі звычайна ўпрыгожваліся сімваламі, што адпавядалі святому, у гонар якога пабудаваны храм. Аднак большасць такіх выяў не суадносяцца з правіламі геральдыкі, не заўсёды лаканічныя і больш адпавядаюць традыцыям пісання абразоў. Выключэннем з'яўляюцца Г на пячатках Віленскага праваслаўнага брацтва і манастыра Святога Духа, Віленскага і Пінскага капітулаў. Але і гэтыя Г паступова страцілі геральдычную форму і набылі літургічную.

Зямельныя Г. ў бел геральдыцы адрозніваюцца ад падобных Г. у інш. еўрапейскіх краінах. Г. усіх ваяводстваў ВКЛ была «Пагоня», якая адрознівалася толькі афарбоўкай поля або эмблемы. У 19 ст уладамі Расійскай імперыі зацверджаны Г Віцебскай, Гродзенскай, Магілеўскай, Мінскай і Віленскай губерняў.

Дзяржаўны Г.— афіцыйная эмблема дзяржавы. Яго выява змяшчаецца на пячатках, бланках дзярж. устаноў, грашовых знаках (гл. *Дзяржаўны герб Беларускай ССР, Дзяржаўны герб Рэспублікі Беларусь)*.

*Літ* Винклер П П Гербы городов, губерний, областей и посадов Российской империи, внесенные в Полное собрание законов с 1648 по 1900 г Спб, [1900], Оршанский гербовник Витебск, 1900, Лукомский В К Герб как исторический источник // Краткие сообщеиия Ин-та истории материальиой культуры М, Л, 1947 Вып 17, Пякарскі А І Гербы былых намесніцтваў, губерняў і іх цэнтраў // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі 1975 № 3, Яго ж Старыя гербы // Там жа 1976 № 4, Цітоў А К Гарадская геральдыка Беларусі Мн, 1989, Paprocki B Herby rycerstwa Polskiego Kraków, 1858, Boniecki A Herbarz Polski T 1—14 Warszawa, 1899—1911, Niesiecki K Herbarz Polski T 1—10 Lipsk, 1839—45, Kojałowicz W Herbarz rycerstwa W X Litewskiego tak zwany Compendium Kraków, 1897, Semkowicz W O litewskich rodach bojarskich zbratanych ze szlachtą polską w Horodle roku 1413 // Lituana-Slavica Posnaniensia Studia historica Poznan, 1989 Z 3 *А К Цітоў*

**ГЕРБЕРШТЭ́ЙН** (Herberstein) Сігізмунд (23.8.1486, Крайна, Аўстрыя, цяпер Славенія — 28.3.1556), нямецкі барон, дыпламат і падарожнік. Са ступенню бакалаўра скончыў Венскі ун-т (1502). З 1506 на ваеннай, з 1514 на дыпламат службе. Валодаў ням., лац., славенскай мовамі. Узначальваў пасольства імператара Максіміляна І і эрцгерцага Фердынанда ў 1517 і 1526 у Маскве, неаднаразова накіроўваўся з даручэннямі ў Венгрыю, Польшчу, ВКЛ. Дыпламат. дзейнасць Г вызначалася імкненнем Габсбургаў зняць канкурэнцыю польскіх каралёў на венгерскі пасад (адсюль пэўныя антыпольскія і антылітоўскія настроі). У мэтах стварэння кааліцыі дзяржаў для барацьбы супраць Турцыі беспаспяхова дамагаўся ў 1517 заключэння міру паміж ВКЛ і Рускай дзяржавай (для гэтага прапаноўваў ВКЛ пакінуць апошняй Смаленск). Неаднаразова праязджаў па тэр Беларусі (Барысаў, Брэст, Віцебск, Гродна, Друцк, Дуброўна, Крэва, Мінск, Орша, Полацк і інш.). У 1549 у Вене выдадзена яго праца «Запіскі аб маскоўскіх справах» (найб. поўнае выданне, Базель, 1556, уласны пер. Г. на ням. мову, Вена, 1557). Першы пераклад на рус мову падрыхтаваны ў 1748 К. Кандратовічам (не выдадзены). У творы Г. выкарыстаў розныя пісьмовыя зах.-еўрап. і ўсх.-слав. крыніцы, матэрыялы ўласных гутарак і назіранняў. Ёсць звесткі гіст.-этнагр.,

Цэхавыя гербы менскіх зегармістраў, збройнікаў, кавалёў і слесараў (1), шаўцоў (2), краўцоў (3), муляраў і ганчароў (4), сталяроў і стальмахоў (5), 17 ст Рэканструкцыя А К Цітова

паліт і культ зместу пра Беларусь і Літву апісаны занятки (земляробства, жывелагадоўля, паляванне, некат. промыслы), побыт насельніцтва, рэліг вераванні, абрады, гандл сувязі, а таксама буйныя рэкі, крэпасці, узаемаадносіны ВКЛ з інш дзяржавамі Г. прывеў генеалогію вял князёў літоўскіх, параўноўваў дзярж службу ў ВКЛ і Маскоўскай Русі Змешчаны звесткі пра К. Астрожскага, падрабязна апісана паўстанне М. Глінскага, асабісты лес апошняга Пры апісанні Вільні Г адзначыў неаднолькавы этнічны склад гар насельніцтва, большую колькасць «рускіх» (праваслаўных) храмаў, чым каталіцкіх, крапасныя ўмацаванні Апісаў таксама гандл і пасольскі шляхі паміж Вільняй і Полацкам, але пра сам Полацк пакінуў мала звестак У нарысах пра Маскоўскую дзяржаву імкнуўся акрэсліць яе магутнасць, даказаць беспадстаўнасць прэтэнзій ВКЛ на «рускія» землі. Нягледзячы на недакладнасць і паліт тэндэнцыйнасць, міфічнасць асобных паведамленняў, кніга Г.— каштоўная гіст крыніца 1-й чвэрці 16 ст, карысталася вял папулярнасцю ў зах-еўрап. гістарыяграфіі 16—17 ст, а таксама ў рус гісторыкаў (М М Карамзін і інш.) На падставе «Запісак..» створаны шматлікія еўрап. карты Расіі і ВКЛ

*Тв* Записки о Московии М, 1988

*Літ* Замысловский Е Герберштейн и его историко-географические известия о России Спб, 1884, Ключевский В О Сказания иностранцев о Московском государстве М, 1991, Грыцкевіч В П, Мальдзіс А І Шляхі вялі праз Беларусь Нарыс Мн, 1980, Хорошкевич А Л Сигизмунд Герберштейн и его «Записки о Московии» // Герберштейн С Записки о Московии М, 1988, Борисовская Н А Старинные гравированные карты и планы XV—XVIII веков М, 1992

*С М Ходзін*

**ГЕРВЯ́ТЫ**, веска, цэнтр сельсавета Астравецкага р-на, на р. Лоша. За 24 км на ПнУ ад Астраўца, 20 км ад чыг. ст Солы, на аўтадарозе Варняны — Жодзішкі 445 жыхароў, 200 двароў (1993).

Вядомы з 1-й пал 16 ст. У 1563 мястэчка Віленскага пав. ВКЛ. У 1536 віленскі біскуп Ян заснаваў тут драўляны касцел Св. Тройцы (пазней перабудаваны). З 1795 у Расійскай імперыі, у Варнянскай воласці Віленскага пав. У 1796 49 двароў. У 19 — пач 20 ст. уласнасць Дамейкаў. У 1880-я гады 21 двор, 147 жыхароў, касцел. У час 1-й сусв. вайны ў 1915—18 акупіраваны германскімі войскамі У 1918—20 пераходзілі з рук у рукі — былі заняты Чырв. Арміяй, польскім войскам. З 1920 у складзе Сярэдняй Літвы, з 1922 — Польшчы, у Віленскім пав З 1939 у БССР, з 12.10.1940 цэнтр сельсавета Астравецкага р-на. У 1941—44 акупіраваны ням.-фаш. войскам. З 25 12 1962 да 6 1 1965 у Смаргонскім р-не. У 1970 377 жыхароў, 132 двары Месца беларуска-літоўскіх сустрэч на высокім узроўні, правядзення навук. канферэнцый гісторыкаў Цэнтр калгаса «Радзіма». Дом культуры, сярэдняя і няпоўная сярэдняя школы, магазін. Помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч вайну Захаваўся помнік архітэктуры — Троіцкі касцел (1903)

С Герберштэйн. Гравюра 16 ст

*Літ* Gervečiai Monografija Vilnius, 1989

*В У Шаблюк*

**ГЕ́РДЗЕНЬ** (? — 1267), полацкі і нальшчанскі князь, сын полацкага кн *Давыда Расціславіча* З дапамогай *Войшалка* ў 1264 стаў полацкім князем 23.12.1264 ад імя Полацкага і Віцебскага княстваў заключыў мірны дагавор з Рыгай і Готландам, які вызначаў правілы гандлю з імі і паводле якога Г. адмаўляўся ад Латгаліі і земляў, аддадзеных яго папярэднікам кн. Канстанцінам Лівонскаму ордэну, за што ордэн абавязаўся не нападаць на Полацкую зямлю. Каб не дапусціць саюзу Полацка з Псковам, Войшалк аддаў Г завяяваную ім Нальшчанскую зямлю, адкуль прагнаў кн. Даўмонта, які потым з Пскова ў 1266—67 тройчы рабіў паходы на Полацкую зямлю. У апошнім баі Г. загінуў. Сын Г Андрэй у 1274—89 быў цвярскім епіскапам Бел. гісторыкі М. Без-Карніловіч і А Кіркор лічылі Г бацькам вял кн літоўскіх *Віценя* і *Гедзіміна*

*Літ* Ермаловіч М Старажытная Беларусь Полацкі і навагародскі перыяды Мн, 1990

*М І Ермаловіч*

**«ГЕ́РМАН»** («Herman»), кодавая назва карнай аперацыі ням.-фаш. захопнікаў у Вял. Айч. вайну супраць партызан і мясцовага насельніцтва ў Валожынскім, Івянецкім, Любчанскім, Навагрудскім, Юрацішкаўскім р-нах Праводзілася 1 7—11.8 1943 сіламі 1-й матарызаванай брыгады СС, 3 паліцэйскіх палкоў, асобага батальёна СС Дырлевангера, 3 батальёнаў вермахта, паліцэйскіх батальёнаў, 5 жандарскіх, грэнадзёрскіх і ар тыл узводаў, падраздзяленнямі нач па ліцыі бяспекі і СД Беларусі, спец падраздзяленнямі з Мінска Усяго для наступлення акупанты сканцэнтравалі больш за 50 тыс салдат і афіцэраў Для вывазу нарабаванай жывелы, с-г прадукцыі і маемасці, угону насельніцтва прыцягваліся спец каманды баранавіцкага гебітскамісарыята, упаўнаважаныя гасп інспекцыі «Усход» Агульнае кіраўніцтва ажыццяўляў групенфюрэр СС і ген-лейт. паліцыі К фон Готберг Маючы колькасную перавагу, гітлераўцы шчыльна блакіравалі раён аперацыі па рубяжах партыз абароны — рэках Іслач, Бярэзіна, Неман, Сула і 13—15 ліп. пачалі наступленне ад Ліды, Навагрудка, Баранавіч на У, ад Заслаўя, Валожына, ст Багданаў на чыг Маладзечна — Ліда на ПдЗ, ад Дзяржынска і Стоўбцаў на ПнЗ. У блакіраванай акупантамі *Івянецка-Налібоцкай партызанскай зоне* дыслацыраваліся партыз. брыгады імя Жукава, імя Кірава, імя Сталіна, імя Чкалава, Першамайская і асобна дзеючыя атрады імя Аляксандра Неўскага, «Бальшавік», імя Катоўскага, імя Кутузава, імя Чкалава, кав. атрад Дз А Дзянісенкі. Агульнае кіраўніцтва зонай ажыццяўляў Баранавіцкі падп абком КП(б)Б У самым пачатку баявых дзеянняў партызаны атрада «Бальшавік» разграмілі з засады варожую аўтакалону і захапілі «Баявы загад на аперацыю «Герман» і штабную карту Была зроблена перагрупоўка партыз сіл На ўсіх напрамках ворага сустрэў упартае супраціўленне і пацярпеў значныя страты Бязлітасныя баі працягваліся 35 дзён. Умелымі манеўрамі партызаны выйшлі з-пад удараў гітлераўцаў разам з часткай насельніцтва зоны У выніку аперацыі 130 партызан загінула, каля 50 паранена. У раёне аперацыі і часткова ў глыбіні партыз зоны фашысты загубілі 4280 сав грамадзян, 654 чал. былі аддадзены на расправу паліцыі бяспекі і СД Для вывазу на фаш. катаргу карнікі захапілі 20 944 чал., у т. л. 4173 дзяцей, поўнасцю рэквізавалі жывелу, спалілі больш за 150 весак. Садысты батальёна СС Дырлевангера, паліцэйскіх батальёнаў і групы СД гвалтавалі, а потым і вешалі або расстрэльвалі дзяўчат і маладых жанчын, спальвалі вёскі разам з жыхарамі, у т. л. ў Валожынскім р-не вёскі Даўгулеўшчына, Доры (спалена ў царкве 146 чал), Дубоўцы (45 чал), Мішаны (43 чал.), Палубаўцы (21 чал), Сярэдняе Сяло (70 чал.) і інш.

*Літ* Гл пры арт *Акупацыйны рэжым*

*У С Пасэ, І П Хаўратовіч*

**ГЕ́РМАН** Кірыла Кананавіч [н. 14(27) 2.1913, в. Гарадзішча Бабруйскага пав Мінскай губ., цяпер Глускі р-н], беларускі гісторык Д-р гіст. навук (1973), праф. (1975) Скончыў БДУ (1940) У 1931—35 працаваў настаўнікам у Рагачоўскім і Слуцкім р-нах. У 1940—60 у Сав. Арміі. Удзельнік Вял. Айч вайны У 1962—90 у БДУ (у 1964—76 дэкан ф-та па навучанні замежных студэнтаў і аспірантаў). Даследаваў ролю рабочага

класа ў правядзенні калектывізацыі.

*Тв* Ведущая роль рабочего класса в создании колхозного строя в Белоруссии (1926—1935 гг) Мн, 1968, Двадцатипятитысячники Белоруссии Мн, 1971 Правда истории против лжи о войне Науч-попул очерк Мн, 1986

**ГЕРМА́НАВІЦКІ МУЗЕ́Й МАСТА́ЦТВА І ЭТНАГРА́ФІІ** імя Я. Драздовіча Створаны ў 1990 у в Германавічы Шаркоўшчынскага р-на на грамадскіх пачатках настаўніцай Германавіцкай сярэдняй школы. З 1992 дзяржаўны музей. Размяшчаецца ў б сядзібным доме, помніку архітэктуры 18 ст Мае 4 экспазіц залы, больш за 400 экспанатаў, у т л. 28 твораў Я *Драздовіча* (1992) У этнаграфічным аддзеле экспануюцца каменная (5 тыс. да н. э.) і баявая (11 ст.) сякеры, кераміка, драўляныя ступы, лыжкі, дзежкі, каўшы, плеценыя кашы, кублы, лубкі, лапці, разнастайныя бязмены, прасы, шумелы, цапы для малацьбы і інш. У спец. пакоі экспануюцца прылады для ручной апрацоўкі лену (нажы, мяліца, трапло, верацены, праснiцы, калаўроты, кросны, сукала і інш.) і вырабы з яго (ніткі, узоры тканін, сурвэткі, ручнікі, дываны і інш.) У экспазіцыі «Я Драздовіч і яго сябры» творы Драздовіча і матэрыялы пра Я. Пачопку, М *Машару*, Г *Цітовіча*, І. Сікору, П Ластаўку. У экспазіцыі «Я. Драздовіч і этнаграфія» музычныя інструменты (цымбалы, скрыпкі, самаробны гармонік, жалейка, балалайка), кнігі з б-кі Драздовіча, скульптура «Вечны вандроўнік» І Голубева, партрэт Драздовіча мастака У. Голубева, жывапісныя пано П Барадоўскага, «Шлях Я. Драздовіча да шчаслівай зоркі», «Фрагменты з работ Я Драздовіча», «Я. Драздовіч і будучыня», карціна А Марачкіна «Шлях на Ліпляны», рэпрадукцыі з твораў Драздовіча. Пры музеі працуюць гуртк ткацкі, разьбярны, ганчарны і інкрустацыі.

*А Э Раичонак*

**ГЕРМА́НАВІЧЫ,** веска, цэнтр сельсавета Шаркоўшчынскага р-на, на р Дзісна За 18 км на ПнУ ад Шаркоўшчыны. 750 жыхароў, 290 двароў (1992).

Упершыню ўпамінаецца ў 1563 пад назвай Ерманавічы як сяло ВКЛ на мяжы з Полацкім ваяв Верагодна, належалі да маентка Сапегаў з цэнтрам у Іказні. З 1565 у Браслаўскім пав. Віленскага ваяв У 1739 Юзаф Станіслаў Сапега за 12 тыс талераў прадаў мястэчка Г. з фальваркам Шабалаўшчына інфлянцкаму пану Яну фон Экель Гілзену З гэтага часу Г.— цэнтр асобнага маентка, які ахопліваў вескі Атокі, Белы Двор, Марыямпаль, Перамены, Пузаны, Рэчкі, Юзафоў З 1782, калі Юзаф Гілзен (мсціслаўскі ваявода) прадаў Г за 2 млн. злотых Ігнацыю Шырыну, да 1939 мястэчка было уласнасцю роду Шырынаў. Ігнацы Шырын заснаваў у Г касцел, запісаўшы яму 15 валок зямлі, яго сын Юстын заснаваў капліцу. Насельніцтва Г. і навакольных вёсак стварала каталіцкі масіў ва уніяцкім, пазней праваслаўным асяроддзі. З 1793 Г. ў складзе Расійскай імперыі, у Дзісенскім пав Пасля скасавання прыгоннага права ў 1861 Г — цэнтр воласці Дзісенскага пав, за панскім маенткам засталося больш як 10 тыс дзесяцін зямлі. У канцы 19 ст ў Г. 300 жыхароў, вінакурны з-д, млын, крама, карчма. З 1921 у складзе Польшчы, цэнтр гміны Дзісенскага пав. Віленскага ваяв. У 1927 казна купіла за 35 тыс. злотых шырынаўскі палац для школы. З 1939 — у БССР, з 12 10. 1940 цэнтр сельсавета Шаркоўшчынскага р-на. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 акупіраваны ням-фаш. захопнікамі. У 1970 было 649 жыхароў, 209 двароў. Цэнтр саўгаса «Буравеснік». Сярэдняя школа, дзіцячы сад, бібліятэка, Дом культуры, бальніца, аддз. сувязі, 7 магазінаў. Працуюць *Германавіцкі музей мастацтва і этнаграфіі* імя Я. Драздовіча, школьны гісторыка-краязнаўчы музей Помнікі землякам, што загінулі ў Вял. Айч. вайну і сав воінам, якія загінулі ў час вызвалення вескі ў ліп. 1944. Захаваліся помнікі архітэктуры — сядзіба і касцел 18 ст., царква пач 20 ст.

М Я Германовіч.

*Літ* Писцовые книги Московского государства Спб, 1877 Ч 1, отд 2 С 422, Zychlinski T Złota księga szlachty Polskiej Poznan 1882 T 4 S 374—388

*В Л Насевіч*

**ГЕРМА́НІШКІ,** веска ў Гудагайскім сельсавеце Астравецкага р-на За 9 км ад Астраўца, 3 км ад чыг. ст. Гудагай. 18 жыхароў, 10 двароў (1993).

Упершыню згадваюцца ў 1387 сярод паселішчаў, якія Ягайла аддаў касцелу Святых Станіслава і Уладзіслава ў Вільні. Каля 1452 у Г утворана парафія віленскага біскупства Паміж 1566—72 Ян Осцік выдаў прывілей на заснаванне ў Г. мястэчка, таргоў і корчмаў У канцы 16 ст. Г. ў Ашмянскім пав. Віленскага ваяв. У 1686 віленскі біскуп Бжастоўскі пабудаваў касцел Св. Тройцы. У 18 ст Г.— сталовы маентак Віленскага біскупства У 1790 маентак і мястэчка належалі біскупу Ігнацію Масальскаму. Забудова двара Г складалася з жылога дома, гасп пабудоў (кухня, лядоўня, бровар, вазоўня і інш.), былі млын і 2 агароды. У мястэчку 24 двары, 94 жыхары, карчма. З 1795 у Расійскай імперыі, у Ашмянскім пав У 1866 уласнасць Лефорта, 182 жыхары, касцел, пастаялы двор На пач 20 ст 188 жыхароў, уладанне Гофмана. У час 1-й сусв. вайны ў 1915—18 акупіраваны германскім войскам, у 1918—20 пераходзілі з рук у рукі — веску займалі Чырв Армія, польскае войска З 1920 у складзе Сярэдняй Літвы, з 1922 у Польшчы, у Ашмянскім пав. Віленскага ваяв З 1939 у БССР З 12 10 1940 у Гудагайскім сельсавеце Астравецкага р-на У 1941—44 акупіравана ням.-фаш войскам З 25.12 1962 да 6.1 1965 у Ашмянскім р-не У складзе саўгаса «Воранаўскі».

*В У Шаблюк*

**ГЕРМАНО́ВІЧ** Маркіян Якаўлевіч [29.10(10 11).1895, в. Дзяменічы Брэсцкага пав. Гродзенскай губ., цяпер Жабінкаўскі р-н — 20 9.1937], савецкі ваен. дзеяч, камкор Удзельнік 1-й сусв. вайны Скончыў школу прапаршчыкаў (1916), штабс-капітан З 1918 у Чырв. Арміі, камандзір узвода, батальена, у 1919—20 камандзір брыгады, удзельнік разгрому англа-амерыканскіх інтэрвентаў на Поўначы, арміі Урангеля, Махно. Узнаг. 2 ордэнамі Чырв. Сцяга. Пасля грамадз вайны камандзір дывізіі, корпуса. У 1926—28 пам. камандуючага БВА, потым — Сярэднеазіяцкай і Маскоўскай ваен акруг З 1933 нач. Акадэміі механізацыі і матарызацыі РСЧА, адначасова з 1934 чл. Ваен савета пры Наркамаце абароны СССР. З сак. 1937 нам камандуючага Ленінградскай ваен акругай Чл. ЦВК БССР у 1925—27, канд. у чл. ЦВК БССР у 1927—28. Незаконна рэпрэсіраваны Рэабілітаваны ў 1957. На радзіме і ў Жабінцы яго імем названы вуліцы

**ГЕРМАНО́ВІЧ** Язэп Станіслававіч, гл *Адважны* В.

**ГЕРМА́НЦЫ,** вялікая група старажытных плямен індаеўрапейскай моўнай групы, якія ў 1 ст да н. э. займалі тэр паміж Паўночным і Балтыйскім морамі, Рэйнам, Дунаем і Віслай, Паўд Скандынавію Пытанне аб прарадзіме Г застаецца спрэчным. Існуе погляд, што культурнае кола Г склалася ў канцы неаліту ў выніку змяшання розных этнічных груп, плямен Паўн. Германіі, Ютландыі, Паўд Скандынавіі *(лейкападобных кубкаў культура)* і прадстаўнікоў *шнуравой керамікі культуры*, якія прасоўваліся з Пд да Балтыйскага мора. Лічылася, што Г належыць культура палеў пахавальных урнаў Цверда атаясамліваюцца з Г. толькі плямены ясторфскай культуры (Пн Германіі і Польшчы) У пісьмовых крыніцах звесткі пра Г упершыню сустракаюцца ў Пітэса з Масіліі (з 4 ст. да н. э.), але толькі Ю. Цэзар убачыў у Г асобную этнічную групу, якая адрозніваецца ад кельтаў Мяркуецца, што назва «Г» «Germani» — кельцкага паходжання Тацыт (канец 1 ст.) пісаў, што спачатку Г называ-

У Г на тэрыторыі Беларусі былі сагнаны сотні тысяч яўрэяў — жыхароў Беларусі, а таксама Германіі, Польшчы, Чэхіі і Славакіі, Аўстрыі, Францыі, Галандыі, Венгрыі і інш Тэрыторыя Г звычайна абносілася калючым дротам ахоўвалася войскам, самавольны выхад па-за межы Г пагражаў смерцю Зняволеныя павінны былі насіць на вопратцы апазнавальныя знакі паўкруглыя жоўтыя латы для ўсіх, чырвоныя — для тых, каго выкарыстоўвалі на работах, зяленыя — для ўтрыманцаў У некаторых Г — гэта былі шасціканцовыя зоркі жоўтага колеру на грудзях і спіне

На Беларусі было больш за 100 Г самае вялікае ў Мінску (100 тыс чал) Брэсце (34 тыс), 2 у Бабруйску (20 тыс), Віцебску (20 тыс), Барысаве (10 тыс), Ваўкавыску (10 тыс), 4 у Гомелі па 2 у Гродне і Жлобіне у Азерах Скідзельскага р-на, Астрыне Васілішкаўскага р-на, Баранавічах, Беразіно, Браславе, Буда-Кашалеве, Быхаве, Бягомлі, Валожыне, Воранаве, Гарадку, Глыбокім, Дамачаве Дзісне, Дзятлаве, Докшыцах Дрыбіне, Дрысе Дунілавічах, Ельску, Іванаве, Івацэвічах, Калінкавічах, Карме, Клецку, Клімавічах, Кобрыне Косаве, Краснаполлі, Крупках, Крычаве, Лепелі, Лезне, Лідзе, Лунінцы, Ляхавічах, Магілеве, Мазыры, Маладзечне, Маларыце Мıерах, Міры, Навагрудку, Нясвіжы, Оршы, Паставах, Пінску, Полацку, Поразаве, Пухавічах, Рагачове, Радашковічах, Ракаве Радашковіцкага р-на, Расонах, Рудзенску, Рэчыцы, Сапоцкіне, Скідалі, Слуцку, Смалявічах, Смаргоні, Століне, Стоўбцах, Ушачах, Шклове, а таксама ў весках Бабінічы Ветрынскага, Вішнева Валожынскага, Галынка Зэльвенскага, Заастравечча Клецкага, Скародня Столінскага р-на, Ільня, Калдычэва Баранавіцкага, Лахва Лунінецкага, Лунна Мастоўскага, Лужкі Пліскага, Моўчадзь Гарадзішчанскага, Напраснаўка Горацкага, Опса Браслаўскага, Сіняўка Клецкага, р п Тамашоўка Дамачаўскага, в. Тучын Радашковіцкага раенаў і інш За гады акупацыі ў Беларусі загінула каля 400 тыс яўрэяў (большасць з іх — вязні Г) У цяжкіх умовах у Г ўзнік антыфашысцкі рух Адны з першых праявілі сябе падпольшчыкі ў мінскім Г Падп антыфаш групы былі ў Бабруйскім, Баранавіцкім, Брэсцкім, Гродзенскім і іншых Г Яны наладжвалі сувязі з падп антыфаш к-тамі па-за межамі Г і выконвалі іх заданні Удзельнікі груп супраціўлення прымалі ўдзел у сабатажы на прадпрыемствах, якія абслугоўвалі ням армію, псавалі станкі, абсталяванне, сыравіну Па заданні партызан рамантавалі або майстравалі зброю і ўзрыўныя ўстройствы, збіралі медыкаменты, адзенне і інш У Г распаўсюджваліся лістоўкі, якія паведамлялі пра падзеі на франтах, дзеянні партызан і падпольшчыкаў У многіх Г напярэдадні падрыхтоўкі фашыстамі масавых расстрэлаў адбываліся паўстанні у Нясвіжы (22 7 1942) Міры (9 8 1942) Лахве і Тучыне (3 9 1942), Клецку (21 7 1943) Узброенае супраціўленне ворагу аказвалі вязні Г ў Глыбокім, Кобрыне, Навагрудку У час паўстання ў Лахве выведзеная на расстрэл калона вязняў кінулася на канвоі загінула каля 2 тыс чал, але 600 здолелі вырвацца, яны працягвалі барацьбу з ворагам у партыз атрадах Паміж Г і партыз фарміраваннямі была наладжана сувязь Сувязныя забіралі падрыхтаваную для іх зброю, боепрыпасы медыкаменты, выводзілі людзей У Г знаходзілі прытулак партыз сувязныя Тысячы вязняў Г папоўнілі рады партызан Яўрэі з мінскага Г сталі асновай або ў значнай ступені папоўнілі 9 партыз атрадаў і 1 батальен У некаторых нас пунктах Беларусі на месцах былых Г пастаўлены абеліскі або памятныя знакі У 1992 зарэгістравана Бел асацыяцыя яўрэяў — былых вязняў Г і нацысцкіх канцлагераў

*Літ* Смоляр Г Мстители гетто М 1947, Гай Д Десятый круг М 1991, Черная книга Киев, 1991, Шерман Б П И ужаснулась земля Барановичи, 1990 Арад И Холокаст Катастрофа европейского еврейства (1933—1945) Иерусалим 1990 Шульмейстер Ю А Гитлеризм в истории евреев Киев 1990

*А З Гольдзін Э Р Іофе*

**ГЕ́ТМАН** (польск hetman ад ням Hauptmann), галоўны начальнік над узброенымі сіламі дзяржавы ў ВКЛ і Польшчы ў 15—18 ст У ВКЛ чын Г вядомы з канца 15 ст, аднак поўнае вызначэнне яго функцый і юрыд афармленне гетманства як дзярж пасады звязана з менскаи ухвалай Жыгімонта І Старога за 1507 Вялікі князь як непасрэдны кіраўнік дзяржавы і войска прызначаў замест сябе Г, надзеленага дыктатарскімі паўнамоцтвамі ен мог караць падначаленых за парушэнне дысцыпліны, гвалт над насельніцтвам і г д Правы Г ў дачыненні да войска канчаткова ўнармавала «Вайсковая ўстава» 1511 і ўхвала сойма 1516 Існавалі пасады Г найвышэйшага (у 17—18 ст ен называўся вялікім) і палявога Паводле Статутаў ВКЛ іх маглі займаць толькі падданыя ВКЛ У час Лівонскай вайны 1558—83 пасада Г найвышэйшага стала пажыццевай Атрымаўшы дадатковыя абавязкі, Г набыў функцыі ваеннага міністра ен мусіў камплектаваць узброеныя сілы, распараджацца сярэбшчынай, назіраць за станам памежных замкаў і інш З 17 ст гэтыя задачы сталі гал абавязкам Г Ствараць войска Г мог толькі на падставе лістоў вял князя, прысланых для наймання жаўнераў Без дазволу манарха вял Г не мог праводзіць ніякіх перамоў з непрыяцелем Поўная гетманская ўлада, уключаючы права суда і смяротнага пакарання, распаўсюджвалася толькі на войска, непасрэдна падпарадкаванае Г Звычайна гэта былі наемнікі, а таксама прыватныя і павятовыя харугвы паспалітага

Да арт Гета Цыркуляр навагрудскага акруговага камісара 1942

рушэння, што далучыліся да гетманскага абозу.

*Літ* Spieralski Z Geneza i początki hetmaństwa w Polsce // Studia i materiały do historii wojskowości 1960 T 5, Wisner H Wojsko litewskie I połowy XVII w Cz 3 // Там жа 1978 T 21, Kukiel M Zarys historji wojskowosci w Polsce Warszawa, 1922 *Г М Сагановіч*

**ГІДРАНІ́МІКА** (грэч. hydor вада + + onyma імя, назва), раздзел *тапанімікі*, які вывучае гідронімы (уласныя назвы мораў, заліваў, праліваў, рэк, ручаёў, крыніц, азёр, балот, вадаспадаў і інш.), што гістарычна склаліся на пэўнай тэрыторыі, а таксама іх сукупнасць — гідранімію. У выніку даследаванняў гісторыка-лінгвістычнымі метадамі гідранімія выступае як гіст. крыніца. Абарыгены і прышэльцы называлі раку або возера па найбольш характэрнай прыкмеце па колеры, празрыстасці, смаку вады (Белая, Святліца, Гаркаватка), асаблівасцях плыні і нораву (Быстрыца, Імклівая, Звінячка), характары дна і берагоў (Дрыгвянка, Каменка, Крынічная), відах жывых істот, для якіх водны аб'ект стаў прытулкам (Бобрык, Ласосеўка), асаблівасцях расліннасці на берагах і ў пойме (Бярэзіна, Альшанка, Імшаніца) і інш Адзін і той жа прыродны водны аб'ект (асабліва буйны) можа мець некалькі назваў, пад якімі ён быў вядомы ў розных плямен і народаў, што жылі адначасова або змяняліся на працягу гіст працэсу ў пэўным рэгіёне. Найбольш стараж. гідронім мог захавацца з тых часоў, калі стала ўстойлівай гіст. пераемнасць насельніцтва Часам прышэльцы крыху змянялі яго, надавалі новы суфікс з канчаткам (фармант), каб прыстасаваць да сваей мовы. Перад асновай маглі дабаўляць слова (афікс), якое наогул змяняла сэнс. Таму гідронімы ў пэўнай ступені адлюстроўваюць гісторыю этнасу. Кожная эпоха пакідала «гідранімічныя пласты», час утварэння якіх патрабуе спец. вызначэння. Так, вял. раку ўсх. славянства Днепр, Дняпро, Непер, Непр стараж грэкі і рымляне называлі Данапрас, Данапрыс, Барысфен, туркі — Узу, Узы, Юз-г; сучасныя ўкраінцы называюць яе Славуціч Рака Неман у ніжнім цячэнні мела назву Мемель, на карце Пталамея (2 ст. н. э.) — Хрона, Хронан, у інш крыніцах — Немул, Неман, Нямот, літоўцы называюць яе Нямунас, у старажытнасці яна, відаць, называлася Гутал, потым Кронан. Пра шырокую вядомасць здаўна р. Зах. Дзвіна сведчаць яе шматлікія назвы у германцаў Дзюна, Віна, Вена; у латышоў Даўгава, у рускіх Двина, на карце Пталамея Эрыдан, Родан, Рудон, Рубон. У ніжнім цячэнні яна была вядома стараж. марахадам як Танаіс, Турунт, Хазін, Херзін. Розныя назвы маюць таксама рэкі Вісла (Вістула, Вістла, Віскла, Вандал) і Волга (Арак, Аціль, Іціль, Йул, у Пталамея — Ра). Каля 1070 паўн.-германскі храніст Адам Брэменскі назваў Балтыйскае мора. Яго, верагодна, меў на ўвазе Плутарх (2 ст. н э.), калі паведамляў пра Кронійскае мора. Тацыт (1 ст. н. э.) пісаў пра мора свебаў (севаў — продкаў сучасных шведаў). Рымляне называлі Балтыйскае мора Венедскім залівам, германцы — Усходнім (Остзээ) або Гоцкім, арабы — Варажскім, Ругенскім, Рускім, Славянскім. Паводле падання, Чорнае мора, або Понт, было вядома яшчэ арганаўтам. Паводле стараж.-грэч. географа і гісторыка Страбона (1 ст. да н э.), грэкі спачатку называлі яго Аксінскі Понт («Негасцінная»), потым перайменавалі ў Эўксінскі Понт («Гасцінная») Для іранцаў яно было Ахшаена («Цьмянае»), для туркаў — Кара-Дэніз («Чорнае мора»). Летапісец Нестар (канец 11 — пач. 12 ст) называе яго Понт і падкрэслівае, што «гэта мора слыве Рускім» Гідронімы паступова эвалюцыяніравалі. Так, вядомы прыток Зах. Буга змяняў назву Лосна (Іпацьеўскі летапіс) — Лісна — Лесна — Лясная Некаторыя фінскія гідронімы набылі балцкія (Варануса, Оксна, Сартай, Уасупэ, Шашупэ) або славянскія (Ваўпянка, Кіраўка, Сар'янка, Соржыца, Чудзінка) фарманты. Воз З'яла пачалі называць Выганаўскім, Князь-возера — Чырвоным, р. Бчыць — Пціч, р Хідра — Хітрая. Найстаражытнейшымі лічацца гідронімы з корнем д о н-, д а н, які паходзіць ад агульнаіндаеўрап слова д а н у — «цячэнне», «рака». У такім значэнні слова д о н захавалася ў стараж.-іранскім рэліг. творы «Авеста» (1-я пал 1-га тысячагоддзя да н э) і ў асецінскай мове, што дае падставу шэрагу даследчыкаў лічыць яго толькі індаіранскім Аднак гэта назва больш старажытная, пра што сведчыць тры ракі Дон, а таксама Дан, Дэйн у Англіі, Дандр, Тон у Францыі («д» перайшло ў «т», як у назве Дона — Танаіс, Танаквісль), Данэ ў Літве, Дан у Партугаліі, Томс у Індыі. Дунай рымляне называлі Дунавій, Данубус, кельты і германцы — Донаў, готы — Данаві, балгары — Дунав, венгры — Дуна, туркі — Туна, румыны — Дунэря. Гідронім Дзвіна паходзіць, верагодна, ад індаіранскага слова д э в а я н а — «паўночны шлях» або «дарога багоў-дзіваў», Неман (Мемель) — ад агульнаіндаеўрап. слова м е л ь — «чорны», а яго гал. прыток Рус, Русне ад старажытнаеўрапейскага (кельцкага) р у с — «светлы». Ручай Гомій пры р. Сож, азеры Гомель у басейне Эсы і Гумель у басейне Гарыні, р. Гомалін у басейне Северскага Данца маюць назвы, сугучныя гідронімам Гомельсу ў Турцыі, Гомаль у Афганістане, Гомаці ў Індыі Слова м а л у індаеўрапейцаў азначае «стаячая вада», у балтаў — «бераг», «зямля». Этымалогія гідроніма Прыпяць (у вярхоўях мае назву Струмель, Струмень) не вельмі празрыстая. Слова п р ы п е т с азначае «якая моцна наслядзіла» (у стараж. індаеўрапейцаў п р ы — «скрозь», «моцна», п е т с — «след», «пядзя»). Прыток Прыпяці р. Ясельда (Ясольда, Яцольда), як і Сольда (Сакольда) з басейна р. Нараў, мае ў назве слова а л ь д а — «рака». Рака Мальда (Эльда) ёсць на Пн Германіі, воз. Сальда ў Турцыі, р Салда ў басейне р Об Перасяленні старажытных індаеўрапейцаў можна таксама прасачыць па назвах воз Олтуш у Маларыцкім р-не, рэк Олту ў Турцыі, Олт у басейне Дуная, Альта ў левабярэжжы Дняпра На іх шляху ляжалі таксама Прыпяць (з прытокамі Лань, Льва, Піна, Свінавод), Вісла і Неман У 8—5-м тысячагоддзях да н. э. Ютландыю і Скандынавію злучаў сухапутны перашыек (Балтыйскае мора было возерам). Індаеўрапейскі арэал адзначаецца гідронімамі на м е н-, м і н-, н а р-, н о р-, н е р-, т а р-, т у р- і інш. Мена, Менка, на якой узнік Мінск (Менск); Мена ў басейне Плісы, Міньо, Мінij у Іспаніі; Мінаб у Іране; Нараў у басейне Зах. Буга; воз. Нарач (у літоўцаў Нарутас), Нера ў басейне Дуная, у Нарвегіі і Італіі; Нара ў Індыі; Нарсея ў Іспаніі, Нарын упадае ў воз. Ісык-Куль, Нары ў Пакістане, Тара ў басейнах Дуная і Іртыша; Тар у Лондане; Тарна ў басейне Цісы, Тарн у басейне Гарыні, Таро ў Італіі; Тарнак у Афганістане і Літве Пасля рассялення індаеўрапейцаў у Еўропе, але яшчэ да вылучэння з іх асяроддзя балцкіх, германскіх, іранскіх і інш. плямен (2500—1500 гадоў да н. э.), склаўся пласт стараж.-еўрап гідраніміі На думку некаторых даследчыкаў, у яго ўваходзяць гідронімы Лупа, Ола, Ольса, Амоня, Сола, а таксама з фармантамі -а р а, -а н т ы я, -м а н т ы я, -м а н а, -м е н а, -і с і я і падобныя Алантыя, Армантыя, Альмена, Візара, Варысія Яны могуць пачынацца на а л-, а н-, в е л-, в і н-, д р а-, д р ы-, і л-, і с- («лёд»), л а н-, м е р-, о с-, с а л-, с о л-, с е н-, с в і-, с т р-, у н- (Алдан, Велна, Віндава, Драва, Ілія, Іс738лач, Лань, Міра, Оса, Салон, Сольча, Сена, Свінь,

Да арт Гета. Загад акупацыйных улад аб стварэнні гета ў Мінску 1941

Струна, Унструт і інш.). Найбольшая ў Еўропе колькасць стараж.-еўрапейскіх гідронімаў (яшчэ дабалцкіх) выяўлена менавіта ў басейне Нёмана. Сустракаюцца яны і ў паўд частцы Верхняга Падняпроўя — Алісаўка (Алісія), Арцíслаўка (Арцісія), Арыя (усе каля Магілева), Мадорка каля Рагачова. У басейне верхняй Волгі індаеўрапейцы сутыкнуліся з угра-фінскімі (уральскімі) плямёнамі, некаторыя з якіх у сярэдзіне 3-га тысячагоддзя да н. э. мусілі перасяліцца на З і дасягнулі Балтыйскага мора. Яны засялялі таксама басейн р Ака (й о к і, й о г і — «рака») з прытокамі Вожа, Кашма, Мокша, Пра, Проня, Сара, Сарма, Уводзь, Угра, Шаня. Угра-фінскія гідронімы часта адрозніваюцца каранямі в о д-, в о л-, в я т-, к е м-, к і р-, м о ж-, с е с-, с а р-, с о р- («возера»), с у о- («балота»), ч а р-, ч у д-, ш о ш-, о к-, о р-, о р а- («якая свідруе»), с е ж-, ю г л а- (Водзьма, Волхаў, Вятша, Кіря, Маза-Югла, Окана, Орша, Рыдыга, Сарагожа, Сораць, Сысола, Утуга, воз Чудскае, воз. Чарсцвяты, Шоша, Шушве, Шуя). Выкарыстоўваліся таксама фарманты -г а, -о г а, -у г а («рака»), -в е с і, -я р в і («возера»), -ж м а, -к с а, -к ш а, -ш а, -х а, -д а (калі немагчыма рэканструяваць -у д а), -м а, -м а а («бераг», «зямля»), -я (Волга, Воря, Жыжма, Керша, Коша, Ладага, Маруга, Мшага, Нельша, воз. Суя, Удога, Чыха, Шышма, Юр'яха і, магчыма, Покшэньга). Характэрная асаблівасць некаторых угра-фінскіх гідронімаў — «цоканне» і наяўнасць падвойных шыпячых і свісцячых гукаў (Сосва, Жызма, Шоша). Шмат угра-фінскіх назваў захавалася ў Латвіі, пераважна на ўзбярэжжы Рыжскага заліва, каля 30 — у Літве Некаторыя даследчыкі лічаць угра-фінскімі фарманты -т ы, -д ы (азеры Дрывяты, Дрысвяты, Снуды ў Браслаўскім р-не) З-за рознага падыходу моваэнаўцаў асэнсаванне стараж. гідронімаў неадназначнае. Яно патрабуе разгляду іх у даволі вял рэгіенах і ўліку арэалаў мясц. археал. культур.

На тэр Беларусі каля 1,5 тыс рэк даўжынёй больш за 10 км кожная і 470 азёр плошчай звыш 0,5 км² кожнае Сярод іх амаль 600 балцкіх гідронімаў (без уліку стараж.-еўрапейскіх і іншамоўных). На Пн ад Прыпяці, у Верхнім Падняпроўі, басейне Зах Дзвіны яны ўтвараюць шчыльную сетку, таму сэнс кожнага мясц гідроніма можа быць высветлены ў першую чаргу зыходзячы з літ. і лат моў. Назвы р Бяроза (Бярэзіна, Берзань) паходзяць ад літ слоў б е р з а с, б е р ж а с («бяроза») або б е р з а у н е («балота»), а апошнія ад агульнаіндаеўрап. слова б е р к («бялець», «свяціцца»), Дунай, Тур'я ад д у н а й с, т у р а с («глеісты», «гразкі»), Друць, Дрыса ад д р у т а с («магутны»); Даўгава — «мнагаводная»; Мярэча, Марач — «дрыгвянка»; Пліса — «чыставодная»; Рэста — «балацянка»; свіда — «светлая»; Ула — «жвірніца»; Цна — «правабярэжная», Эса — «бродніца» і інш. У балцкіх гідронімах можна аднавіць словы -у д а («вада» — Невда, Лосвіда), -у п э, -у п і с («рака») — Гелупэ, Нятупа) Ім уласцівы фарманты -е я, -і я, -у л а, -е т а, -і т а, -е с а, о с а, -д р а, -с н а, -с т а, -к с н а, -к ш а, -ш т а (Асвея, Вілія, Апіта, Арэса, Лучоса, Бершта, Расосна). На левабярэжжы Дняпра, у басейнах Дзясны і Іпуці вылучаюць індаіранскія гідронімы, распаўсюджанне якіх звязана са скіфамі і іх папярэднікамі Сейм, Серабоўт, Харопуць, Эсмань. Бася (б а с а ч — «вялікая»), Вець (в е т э — «вада»), Вейна, Карма, Стомець. На дунайскім напрамку індаіранцы назвалі рэкі Буг, Істар («паток», назва Дуная ў ніжнім цячэнні), Днестр (д о н+і с т а р), Прут («бродніца»), Сава («чорная») Пасля ілірыйцаў, якія жылі на Валыні, засталіся Іква, Ікава, Мараква, Поніква і, верагодна, Барбара, Брэшча, Грана, Гарынь, Ліць, Луква Германскія пранікненні на ПдУ сталі прычынай паяўлення асобных гідронімаў у міжрэччы Віслы і Нарава (Брэнь, Верціна, Вкра, Гвда, Згаведа, Скрва) і далей на У (Бахмут, Белз, Берній, Брытай, Брда, Бярлянка, Дзерна, Корна, Кранк, Ленг, воз. Люцымер, Льва, воз Нобель, Палахва, Парній, Расцімір, Руфа, Стыр, Тусталь, Чэква, Шпіль) Сярод іх вылучаюцца гоцкія

Гізарма.

У 175—375 готы вандравалі ад Зах. Буга да Азоўскага мора, наведвалі рачныя даліны Ворсклы, Днястра, Северскага Данца, сярэдняе Падняпроўе, Крым, абышлі з Пд Палессе (Айум, Ойум — «краіна балот і лясоў») і ўтварылі вял дзярж аб'яднанне. У выніку некаторыя мясц. гідронімы набылі характэрныя фарманты: -а г в а (-а г а), -а х в а (-а х а, -в а х а, -а ф а), -в а т а (-в а т о —«вада»), -а в і (-а ў, -о в). Толькі на Украіне існуе не менш за 40 такіх назваў (Ахава, Гаўрувата, Колтаў, Луплаваха, Малахва, Мярэфа, Мурахаў, Пулькаў, Цернаў, Цярэхва, Ярнувата, Яха і інш) Сярод германскіх губляюцца таксама лацінізаваныя кельцкія гідронімы, у т. л. з коранем р у с- (назва возера ў кельтаў). Кельцкія гідронімы Лютка і Точыя есць у басейне р. Лясная. На тэр. Усх. Еўропы, асабліва на Палессі, пануе больш позняя слав. гідранімія. У працэсе рассялення славяне часта надавалі мясц. гідронімам характэрныя для сваёй мовы суфіксы і канчаткі або наогул па-свойму называлі тысячы дробных рэчак, папярэднія назвы якіх былі страчаны. У арэале, дзе складвалася іх мова (на прарадзіме), нярэдка захоўваліся не зусім зразумелыя гідронімы (Вісла, Дзвіна, Одра, Свіцязь) У зонах наступных міграцый (1-е тысячагоддзе н э.) яны пераважна празрыстыя паводле сэнсу (Балацянка, Каменка, Ліпаўка, Ржаўка, Трасцяніца, Чорная) Наяўнасць поліэтнічных гідронімаў (Альзініца, Ілжанка, Лундонга, Мірклішка, Нерайшанка, Ардзяжанка, Сародынька, Серакаратнянка, Чарапеціца, Шаймена, Юрмала) дазваляе іншы раз прасачыць паслядоўнасць засялення пэўнай тэрыторыі. На аснове гідроніміі складваюцца ўяўленні аб прарадзімах стараж. індаеўрапейцаў, балтаў, германцаў, славян і інш. народаў. Прарадзіма першых знаходзілася хутчэй за ўсё ў Прычарнаморскай (Цыркумпанційскай) вобласці Славянскія плямёны вылучыліся з індаеўрапейскай (ці прамежкавай балта-славянскай) еднасці на вісла-одэрскай прасторы, а магчыма, і ў больш шырокім арэале, які ўключаў Прыкарпацце, Валынь і Зах. Палессе. У 3—5 ст. асобныя іх пранікненні адбываліся на ПнУ, пазней — на Пд. Прыпяць стала слав ракой у 6—8 ст Тэрыторыі на Пн ад яе разам з левабярэжжам Дняпра трапілі ў слав. арэал спачатку ў выніку славянізацыі, потым асіміляцыі мясц. балцкага насельніцтва.

*Літ* Топоров В Н, Трубачев О Н Лингвистический анализ гидронимов Верхнего Поднепровья М, 1962, Жучкевич В А Топонимика Белоруссии Мн, 1968, Трубачев О Н Названия рек Правобережной Украины М, 1968 Пытанні беларускай тапанімікі Мн, 1970, Яшкін І Я Беларускія геаграфічныя назвы Тапаграфія Гідралогія Мн, 1971, Проблемы этнической истории балтов Тез докл Рига, 1977, Словник гідронімів України Київ, 1979, Гамкрелидзе Т В, Иванов В С Индоевропейский язык и индоевропейцы Кн 1—2 Тбилиси, 1984, Агеева Р А Происхождение имен рек и озер М, 1985, Vasmer M Untersuchungen uber die altesten Wohnsitze der Slaven Bd 1 Die Iranier in Sudrußland Leipzig, 1923, Thieme

P Die Heimat der indogermanischen Gemeinsprache Wiesbaden, 1954, Krahe H Indogermanische Sprachwissenschaft Bd 1—2 Berlin, 1957—59, Gimbutas M The Balts New York, 1963 *У Ф Ісаенка*

**ГІЗА́РМА** (франц. guisarme), дрэўкавая зброя пяхоты, пашыраная ў сярэднявеччы ў краінах Еўропы, у т. л. ў ВКЛ Паходзіць, верагодна, ад франц. прылады для высякання кустоў. Уяўляла сабой падоўжанае, насаджанае на дрэўка жал. палатно, верхні канец якога загінаўся наперад, так што атрымлівалася ўвагнутае лязо. На тыльным баку знаходзіўся доўгі загнуты ўгару крук (часам іх магло быць два — карацейшы і даўжэйшы), прыстасаваны для ўколаў. У познім сярэднявеччы адбылася мадыфікацыя Г.— у агульнай аснове паявіліся доўгае простае вастрыё, а крыху ніжэй серпападобны, загнуты наперад крук ляза Прыкладна пасярэдзіне тыльнай часткі наверша быў шып, а ў месцы насаджвання наканечніка на дрэўка яшчэ 2 шыпы, якія тырчалі ў розныя бакі. Г. ўжывалася з 11 ст., доўгая, каля 2—2,5 м. Г. выкарыстоўвалася ў Англіі, а ў 15 ст. пашырылася ў іншых еўрапейскіх краінах як зброя пяхоты Пачынаючы з 16 ст выцясняецца з шырокага ўжытку і да 17 ст становіцца пераважна зброяй палацавай і дваровай варты. Пазней 17 ст. не выкарыстоўвалася

*Літ* Винклер П Оружие М, 1992 Kwaśniewicz W! 1000 słów o broni białej i uzbrojeniu ochronnym Warszawa 1981, Żygulski Z Broń w dawnej Polsce 2 wyd Warszawa, 1982 *Ю М Бохан*

**ГІКА́ЛА** Мікалай Федаравіч [8(20).3 1897, Адэса — 25.4.1938], савецкі ваенны і парт. дзеяч. Скончыў Тыфліскую ваенна-фельчарскую школу (1915) У чэрв 1917 прыняты ў РСДРП(б). Удзельнічаў ва ўстанаўленні сав. улады на паўн Каўказе. У 1918 у г Грозны старшыня Савета, камандуючы часцямі Чырв Арміі. З аднаўленнем сав. улады на паўн. Каўказе чл. Каўказскага краявога к-та РКП(б), ваенны камісар Церскай вобл. і Дагестана. З 1921 на парт. рабоце на Каўказе і ў Сярэдняй Азіі З 1929, пасля заканчэння Камуніст акадэміі ў Маскве, сакратар ЦК КП(б) Узбекістана, Азербайджана. З 1931 сакратар Маскоўскага абкома і гаркома ВКП(б). Са студз. 1932 першы сакратар ЦК КП(б)Б, чл Бюро ЦК КП(б)Б, Прэзідыума ЦВК БССР, Рэўваенсавета БВА (1932—37) Чл. Цэнтр. Рэвізійнай камісіі ВКП(б) у 1930—34. Канд. у чл ЦК ВКП(б)Б з 1934. Чл ЦВК СССР З лют. 1937 першы сакратар Харкаўскага гаркома КП(б)У. Працуючы ў БССР, займаўся пытаннямі развіцця прамысловасці, стварэння яе новых галін, прымусовай калектывізацыі і арганізацыйна-гасп. умацавання калгасаў і саўгасаў, культ будаўніцтва. Многія пытанні вырашаў адм.-каманднымі метадамі, ставіў задачы па спешным дасягненні суцэльнай калектывізацыі, аб'явіў у 1932 БССР рэспублікай усеагульнай пісьменнасці насельніцтва. Удзельнічаў у разгортванні масавых рэпрэсій у БССР Неўзабаве сам стаў ахвярай гэтай палітыкі. Рэабілітаваны пасмяротна. У Мінску яго імем названа вуліца.

*М П Касцюк*

М Ф Гікала.

Н С Гілевіч.

**ГІЛЕ́ВІЧ** Ніл Сымонавіч (н 30.9 1931, в. Слабада Лагойскага р-на), беларускі паэт, літаратуразнавец, фалькларыст, перакладчык, грамадскі дзеяч Канд. філал. навук (1963), праф. (1978) Засл. дзеяч навукі БССР (1980). Нар. паэт Беларусі (1991) Скончыў БДУ (1956) У 1960—80 выкладчык кафедры бел л-ры БДУ, у 1980—89 першы сакратар праўлення СП БССР З 1990 старшыня пастаяннай камісіі Вярх. Савета Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры і захаванні гіст. спадчыны.

Выдаў зборнікі лірыкі «Песня ў дарогу» (1957), «Прадвесне ідзе па зямлі» (1959), «Неспакой» (1961), «Бальшак» (1965), «Перазовы» (1967), «А дзе ж тая крынічанька» (1972), «Актавы» (1976), «У добрай згодзе» (лірыка, сатыра, гумар, 1979, адзначаны разам з перакладчыцкай дзейнасцю Дзярж. прэміяй БССР імя Я Купалы 1980), «Повязь» (1987), «Незалежнасць» (1991), «Жыта, сосны і валуны» (1992). У творах Г. пераважаюць традыц. формы класічнай паэтыкі, тэмы гіст повязі часоў і пакаленняў, памяці маленства, суровых выпрабаванняў ваен. гадоў (вянок санетаў «Нарач», паэмы «Заручыны», «Сто вузлоў памяці», нізка вершаў «Гарыць, гарыць мая Лагойшчына», раман у вершах «Родныя дзеці», 1985). Аўтар прац па літаратуразнаўстве і фалькларыстыцы «Акрыленая рэвалюцыяй (Паэзія «Маладняка»)» (1962), «Наша родная песня» (1968), «З клопатам пра песні народа» (1970), «Паэтыка беларускай народнай лірыкі» (1975), «Паэтыка беларускіх загадак» (1976), «Верная вялікім запаветам. Сучасная балгарская паэзія, 1956—1976» (1977), «Вусная народная творчасць і сучасная лірычная паэзія ўсходніх і паўднёвых славян» (1978), зборнікаў літаратурна-крытычных і публіцыстычных артыкулаў «У гэта веру» (1978), «Удзячнасць і абавязак» (1982), «Покліч жыцця і часу» (1983), «Годнасць, сумленнасць, мужнасць» (1988), «Вяртанне і працяг» (1990), кніг сатыры і гумару, твораў для дзяцей, зборніка п'ес «Начлег на буслянцы» (1980), аўтабіяграфічнай аповесці «Перажыўшы вайну» (1988). Укладальнік і навуковы рэдактар зборнікаў фальклору «Песні сямі весак» (1973), «Песні народных свят і абрадаў» (1974), «Лірычныя песні» (1976), «Лірыка беларускага вяселля» (1979), «Народныя казкі-байкі, апавяданні і мудраслоўі» (1983) і інш. Перакладае творы балгарскіх пісьменнікаў, паасобныя творы польскіх, укр., рус. паэтаў Выдаў зборнік выбраных перакладаў славянскіх паэтаў «Роднасць» (1983). Творы Г. перакладаліся на многія мовы Міжнар прэмія імя Хрыста Боцева за рэв. паэзію і публіцыстыку (1986). Дэпутат Вярх. Савета Рэспублікі Беларусь з 1985. У 1985—91 сакратар праўлення СП СССР. З 1989 нам. старшыні Савета міжнар. Фонду слав. пісьменнасці і слав. культур, старшыня Таварыства бел мовы.

*Тв* Лісце трыпутніку Выбр тв Мн, 1968, Запаветнае Лірыка Мн, 1975, Выбр тв Т 1—2 Мн, 1981

*Літ* Сіненка Г Д Ніл Гілевіч Нарыс творчасці Мн, 1981, Бураўкін Г Пара справаздач // Полымя 1969 № 10, Календік У Паэт у страі // Полымя 1976 № 4, Ламека Л Радок чыстіні світальнай // Маладосць 1991 № 9

*М У Мікуліч*

**ГІ́ЛЕР** (Giller) Агатон (9.1 1831, мяст Апатоўка, цяпер Калішскага ваяводства, Польшча — 17.8.1887), польскі палітычны дзеяч, журналіст, удзельнік і гісторык *паўстання 1863—64.* Сярэднюю адукацыю атрымаў у Калішы, Варшаве, Ломжы У 1853 за рэв. прапаганду сасланы ў Сібір У 1860 па амністыі вярнуўся ў Варшаву і ўключыўся ў паліт барацьбу Удзельнічаў у патрыятычных маніфестацыях 1861, займаўся журналістыкай. Летам 1862 увайшоў у склад *Цэнтральнага нацыянальнага камітэта* (ЦНК) у Варшаве Адзін з лідэраў правага крыла *«чырвоных»*, вяшчальнік класавай салідарнасці ў нац.-вызв. руху.

Выступаў супраць рэв. праграмы Я. Дамброўскага, імкнуўся адцягнуць тэрмін паўстання. Быў прыхільнікам польска-рускага рэв. саюзу, у вер. 1862 разам з З. Падлеўскім вёў у Лондане перагаворы з А. І. *Герцэнам* аб супрацоўніцтве. У знак пратэсту супраць узятага курсу на ўзброенае выступленне выйшаў са складу ЦНК. Вясной 1863 член Часовага нац. ўрада, рэдагаваў паўстанцкія газ. «Straznica» («Стражніца»), «Ruch» («Рух»), «Wiadomości z pola bitwy» («Паведамленні з поля бітвы»). Летам 1863 выехаў за мяжу. У маі 1864 — вер. 1865 разам з Ю. І. Крамэўскім і Слівінскім выдаваў у Лейпцыгу, затым г. Бендліконе (Швейцарыя) час «Ojczyzna» («Айчына»), у якім публікаваў матэрыялы пра паўстанне 1863—64 у Польшчы, на Беларусі і ў Літве У 1867—78 жыў у Францыі, Галіцыі, затым Швейцарыі, з 1884 — у г. Станіславе (цяпер Івана-Франкоўск на Украіне), дзе і памер. У 1981 яго прах перапахаваны ў Варшаве. Аўтар «Гісторыі паўстання польскага народа ў 1861—1864 гг.» (з запланаваных 10 т. выйшлі 4 т.; Парыж, 1867—71), багатай фактычным матэрыялам. У 1-м т «Гісторыі..» упершыню апублікаваны «Пісьмы з-пад шыбеніцы» К. *Каліноўскага*, а таксама «Пісьмо ад Яські — гаспадара з-пад Вільні да мужыкоў зямлі польскай» (аўтарства Каліноўскага аспрэчваецца). У выдадзеным Г. зборніку мемуараў «Польшча ў змаганні» (т 1. Парыж, 1868, т. 2. Кракаў, 1875) змешчаны ўспаміны ўдзельніка паўстання на Міншчыне В. *Валодзькі*

*Тв* Ogólna charakterystyka powstania w 1863 r Lwow, 1888

*Літ* Герцен А И Собр соч М, 1957 Т 11 С 368—372, К Калиновский Из печатного и рукописного наследия Мн, 1988, Шалькевич В Ф Кастусь Калиновский Страницы биогр Мн, 1988, Kieniewicz S Powstanie Styczniowe Warszawa, 1983, Florkowska-Frančič H Emigracyjna działalność Agatona Gillera po powstaniu Styczniowym Wrocław etc, 1985
*В Ф Шалькевіч*

**ГІ́ЛЬДЫІ** (ад ням. Gilde карпарацыя), у перыяд ранняга сярэднявечча розныя аб'яднанні (рэлігійныя, паліт., эканам.), пазней аб'яднанні купцоў у краінах Еўропы для абароны інтарэсаў сваіх членаў Купецкія Г ствараліся з мэтай абароны купцоў і тавараў у дарозе, узаемадапамогі, атрымання гандлёвых прывілеяў, замацавання манапольнага становішча на мясцовых рынках На Беларусі т. зв. купецкія сотні вядомы з 12 ст. ў Полацку і Віцебску. У 17—18 ст. купецкія арганізацыі ў рамесна-гандлёвых цэнтрах ВКЛ называліся *брацтвамі*; дзейнічалі ў Полацку, Віцебску, Магілеве, Мінску, Пінску, Слуцку. Адстойваючы інтарэсы купцоў на гандаль у гарадах, мелі перавагі пры набыцці і продажы прывазных тавараў, права пасрэдніцтва ў гандлі іншаземных купцоў, рэгулявалі парадак куплі і продажу, адносіны паміж купцамі. Сход брацтва выбіраў старшын, якія складалі адм. і судовы орган суполкі. Рашэнні сходу і старшын зацвярджала гар. рада. Пасля далучэння Беларусі да Расійскай імперыі (канец 18 ст.) на яе пашыралася дзеянне рэгламенту Галоўнага магістрата (1721), які абавязваў ствараць Г. ва ўсіх гарадах. Купцы (асобы абодвух полаў) павінны былі запісвацца ў Г. і купляць гандлевае пасведчанне. У залежнасці ад аб'яўленай сумы капіталу купецтва падзялялася на 3 Г. Велічыня капіталаў, патрэбная для залічэння ў тую або іншую Г., з цягам часу мянялася. У 1775 купец 1-й Г. павінен быў мець больш за 10 тыс. руб, 2-й Г.— ад 1 тыс. да 10 тыс. руб., 3-й Г.— ад 500 руб. да 1 тыс. руб; на пачатку 19 ст. адпаведна 50 тыс., 20 тыс. і 8 тыс. руб. У 1840—50-я гады ў 4 бел. губернях (Віцебскай, Гродзенскай, Магілёўскай і Мінскай) налічвалася прыкладна 20—25 купцоў 1-й Г, 30—50 2-й Г, больш за 1000—1200 купцоў 3-й Г. Прыналежнасць да Г. давала купцу і членам яго сям'і (жонцы, сынам, незамужнім дочкам, унукам і інш.) асобыя правы і прывілеі вызваленне ад рэкруцкай павіннасці, падушнага падатку, права купляць прыгонных сялян на фабрыкі і заводы, пазбаўленне ад цялесных пакаранняў, права атрымліваць за пэўныя заслугі ордэны, ганаровыя званні і інш. Купцы 1-й Г. мелі права прыязджаць да імператарскага двара, насіць шпагу або шаблю і губернскі мундзір, удастойвацца звання камерц- і мануфактур-саветнікаў. Купецтва ўсіх Г. утварала ў кожным горадзе купецкую суполку (таварыства) на чале са старастам і яго таварышам (намеснікам). Т-ва вызначала раскладку казенных падаткаў і інш. збораў, грамадскіх і гарадскіх павіннасцей купецкага саслоўя і інш. З развіццем капіталізму роля Г. паменшала. У 1863 3-я Г. скасавана. З 1898 выбарка гільдзейскіх пасведчанняў стала не абавязковай, іх маглі браць толькі асобы, якія хацелі набыць купецкія правы. Правы атрымання гільдзейскіх пасведчанняў дзейнічала да Кастр. рэвалюцыі.

*Літ* Стоклицкая-Терешкович В В Основные проблемы истории средневекового города X—XV веков М, 1960, Яковцевский В Н Купеческий капитал в феодально-крепостнической России М, 1953 Белоруссия в эпоху феодализма Сб документов и материалов Т 1—3 Мн, 1959—61, Копысский З Ю Экономическое развитие городов Белоруссии в XVI — первой половине XVII в Мн, 1966
*В В Швед*

**ГІЛЬ-РАДЗІЁНАЎ** Уладзімір Уладзіміравіч [6(18) 7.1906. в. Дараганава Бабруйскага пав. Магілёўскай губ. (цяпер Асіповіцкі р-н) — 14.5.1944], адзін з кіраўнікоў партыз. руху на Беларусі ў Вял. Айч. вайну (жн. 1943 — май 1944). У 1939 скончыў Ваен. акадэмію імя Фрунзе, падпалкоўнік. У 1941 нач. штаба 229-й стралк. дывізіі на фронце. Паранены трапіў у палон. З 1942 да 15.8.1943 Г.-Р. быў камандзірам «дружыны», палка, брыгады «Рускай нацыянальнай народнай арміі», сфарміраванай гітлераўцамі з ліку ваеннапалонных. Г.-Р. падрыхтаваў і арганізаваў пераход 16.8.1943 гэтага фарміравання ў поўным складзе на бок партызан. Фарміраванне атрымала назву 1-я Антыфашысцкая партыз. брыгада і адразу ўключылася ва ўпартыя баі з гітлераўцамі (гл. *Вілейскі бой 1943*, *Докшыцка-Круляўшчынская аперацыя 1943* і інш.). 16.9.1943 Г.-Р. узнагароджаны ордэнам Чырв. Зоркі, прысвоена званне палкоўніка. У крас.— маі 1944 у цяжкіх баях у час карнай аперацыі *«Веснавое свята»* ў ходзе *Полацка-Лепельскай бітвы 1944* брыгада панесла вял. страты (1026 чал.) Г.-Р. быў смяротна паранены. Памер ад ран.

**ГІЛЬТЭБРА́НТ** Петр Андрэевіч [26. 4(8.5).1840, в Пер'і Касімаўскага пав. Разанскай губ.— 29.11(12.12).1905], рускі гісторык, археограф, этнограф, фалькларыст. Вучыўся ў Маскоўскім ун-це (1861—62). У 1865—70 памочнік архіварыуса Віленскага цэнтр. архіва стараж актавых кніг, заг. аддзела рукапісаў Віленскай публ. б-кі. У 1867 чл. Віленскай археаграфічнай камісіі, накіраваны ў Нясвіж для адбору матэрыялаў з архіва Радзівілаў для публікацыі. Сярод знаходак выявіў невял. урывак з Слуцкага летапісу пач. 16 ст. ў лац. транскрыпцыі 18 ст. З 1871 у Археаграфічнай камісіі (Пецярбург), з 1884 у сінадальнай друкарні, з 1897 у Мін-ве народнай асветы. Матэрыялы Г. па пытаннях музейнай справы, археал. помнікаў друкавалі «Виленский вестник», «Литовские епархиальные ведомости», «Известия Русского географического общества» У 1866 падрыхтаваў да друку «Зборнік помнікаў народнай творчасці ў Паўночна-Заходнім краі» (Вільня, 1866), дзе змясціў 300 песень, 151 прыказку, 93 загадкі, сабраныя навучэнцамі Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі ў Гродзенскай (пераважна), Віленскай і Мінскай губ. Бел фальклорны матэрыял, які Г. збіраўся выдаць у вып. 2 «Зборніка...», зберагаецца ў Расійскай нац. б-цы (Санкт-Пецярбург) У 1869 надрукаваў упершыню «Тураўскае евангелле». У 1867—1904 рэдагаваў асобныя тамы «Археаграфічнага зборніка дакументаў..» і шматтомнага выдання «Руская гістарычная бібліятэка». Настойваў на неабходнасці выдання стараж кніг з Метрыкі Вял. княства Літоўскага і ўдзельнічаў у іх выданні. У тэкстах выданняў рабіў адвольныя праўкі ў напісанні бел слоў. У сваіх поглядах арыентаваны на тагачасную афіцыйную палітыку вялікадзяржаўнага кірунку лічыў Беларусь Паўн.-Зах. краем Расіі, бел мову ўтварэннем з рускай мовы, актыўна выступаў супраць паланізацыі Беларусі Польшчай, але і не прызнаваў самабытнага развіцця бел. народа і яго культуры. Аўтар «Даведачнага і тлумачальнага слоўніка да Новага запавету» (кн 1—6, 1882—85).

*Літ* Бандарчык В К Гісторыя беларускай этнаграфіі XIX ст Мн, 1964 С 140—142, Гілевіч Н С З клопатам пра песні народа Мн, 1970 С 37—38, Улащик Н Н Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии

феодальнага периода М, 1973, Беларуская фалькларыстыка Мн, 1989 С 54—58
*Г А Каханоўскі*

**ГІМН** (грэч. hymnos), урачыстая хвалебная песня У сучасным традыцыйным разуменні Г.— афіцыйна зацверджаная гукавая эмблема дзяржавы (Г. дзяржаўны) У жанравых адносінах існуюць Г. рэв., вайсковыя, рэліг., спартыўныя, прысвечаныя пэўным гіст падзеям, святам, нац. героям Г. займаюць значнае месца ў грамадска-паліт жыцці, з'яўляюцца істотным сродкам аб'яднання нацыі ў святочныя і трагічныя часы існавання дзяржавы Муз-паэтычныя асаблівасці Г. звязаны са спецыфікай іх прызначэння Адметныя рысы — агульны велічны тон музыкі, узвышанасць і рытарычнасць паэт лексікі, рытмічная ўпарадкаванасць (т зв маршавасць) — надаюць Г асаблівы характар накіраванасці на ўспрыманне, садзейнічаюць хуткаму запамінанню музыкі і тэксту.

У працэсе гіст. развіцця змест паняцця «Г» значна эвалюцыяніраваў Найстаражытнейшыя Г — малітоўныя песна пенні лірычнага характару — былі пашыраны ў Егіпце і Месапатаміі Г як муз-паэтычная форма шырока выкарыстоўваліся ў Стараж. Грэцыі, дзе яны выконваліся хорам у гонар багоў і герояў пад акампанемент кіфары (часта спевы суправаджаліся танцамі) Сярод аўтараў Г — Гамер, Піндар, Анакрэон Доўгі час паняцце «Г» было абагульняльнай назвай розных культавых песнапенняў (дыфірамб, прасодыя, праомія, пайяна і інш) У краінах Зах. Еўропы ў перыяд ранняга хрысціянства Г лічыліся духоўныя страфічныя песні Выкананне Г ў богаслужэнні Зах хрысціянскай рымскай царквы звязана з епіскапам Амвросіем (4 ст). Першыя ўзоры шматгалосых Г. адносяцца да 14 ст. (франка-фламандская школа, творчасць Г. Дзюфаі) Сацыяльна-рэліг рух 15—16 ст спарадзіў стварэнне новых форм Г, не звязаных цесна з царк абрадам. Сярод іх пратэстанцкія харалы-Г., гусіцкія песні-Г ў Чэхіі, славянскія кантаты-Г., якія з 16 ст распаўсюдзіліся на Беларусі, Украіне, у Польшчы, пазней у Расіі У 19 ст Г. становіцца ўрачыстая песня свецкага зместу, прызначаная часцей для вял складу выканаўцаў (аркестр, хор, група саліcтаў). Сярод найбольш папулярных песень-Г. «Марсельеза» Ружэ дэ Ліля, «Гімн розуму» Э Мегюля, «Гімн свабодзе» Ф Гасэка, «Інтэрнацыянал» П. Дэгейтэра (Францыя), «Гімн Гарыбальдзі» А Аліўеры (Італія), «Гімн Рыега» Ф Уэрты (Іспанія), «Ракацы-марш» (Венгрыя), «Мазурка Дамброўскага» (Польшча) Узорамі класічнай музыкі, звязанай з праламленнем жанру Г, з'яўляюцца 9-я сімфонія Л. ван Бетховена, 8-я сімфонія Г Малера, хор «Слаўся» з оперы «Іван Сусанін» М. Глінкі, «Гімн вялікаму гораду» з балета «Медны коннік» Р. Глэра, «Гімн жыццю» з 10-й сімфоніі М. Аладава, фінал 5-й сімфоніі Я. Цікоцкага, названы аўтарам «Жыццесцвярджэнне», і інш. Гісторыя развіцця гімнічных песень на Беларусі цесна звязана з кантамі і псальмамі (свецкія харавыя песні), якія распаўсюдзіліся з 2-й пал. 16 ст У іх адлюстроўваліся многія прыкметы менталітэту беларусаў, тыповыя рысы іх характару, светапогляду і светаўспрымання Сціпласць, добразычлівасць, талерантнасць паступова фарміравалі асаблівы склад мовы, апасродкавана ўплывалі на тып узнеслага, велічнага і адначасова лірычнага вакальна-паэт. меласу Шмат кантаў-Г. змешчана ў канцыяналах і багагласніках, у т. л ў адных з першых ва Усх Еўропе друкаваных зборніках «Брэсцкі канцыянал» (1558) і «Нясвіжскі песеннік» (1563). Яркім узорам бел нац. канта-Г з'яўляецца героіка-патрыятычны твор «Даруй спакой» (1646) Афанасія Філіповіча. Пашырэнне на Беларусі баявых (ваяцкіх) песень-Г пачалося з паўстання 1863—64 (гучалі польскія і бел. паўстанцкія гімнічныя песні на сл. Ф Ражанскага). Шмат бел. песень-Г. выклікаў да жыцця рэв. ўздым пач. 20 ст. Найб. папулярнасць набылі песні на словы Я. Купалы «А хто там ідзе?» (муз Л. Рагоўскага) і «Не пагаснуць зоркі ў небе» (муз. М Янчука), «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» (сл М Краўцова, муз. М. Тэраўскага), «Беларуская марсельеза» і інш. У сав. перыяд бел. кампазітары стварылі шэраг лірычных песень, у якіх арганічна спалучаюцца гімнічныя і лірычныя інтанацыі «Мы беларусы» (Дзярж гімн БССР з 1955, сл. М. Клімковіча, муз. Н. Сакалоўскага), «Радзіма мая дарагая» (сл А. Бачылы, муз. У. Алоўнікава), «Беларусь — мая песня» (сл. М. Браўна, муз. Ю. Семянякі), «Песня пра Неман» (сл. А. Астрэйкі, муз. Сакалоўскага). Да гімнічных належаць таксама муз творы «Жыві, Беларусь!» А. Багатырова, «На родных прасторах» Р. Пукста, «Красуй, Беларусь!» Я. Цікоцкага, «Беларусь — наша родная маці» Сакалоўскага. У наш час у жанры песні-Г. працуюць кампазітары У. Мулявін («Пагоня», сл. М Багдановіча), В Раінчык («Жыве Беларусь», сл. Л. Пранчака) і інш Сустракаюцца гімнічныя творы і ў кампазітараў бел. замежжа («Магутны божа», сл Н. Арсенневай, муз. М. Равенскага; «Пагоня», сл. Багдановіча, муз. М. Куліковіча-Шчаглова).

*Літ* Бернштейн Н Д История национальных гимнов Пг, 1914; Асафьев В Композитор — имя ему народ // Избранные статьи о русской музыке М, 1952 Вып 2, Гісторыя беларускай савецкай музыкі Мн, 1971, Костюковец Л Ф Кантовая культура в Белоруссии Ми, 1975, Цитович Г И О белорусском песенном фольклоре Мн, 1976, Gerber R Zur Geschichte des mehrstimmigen Hymnus Musikwissenschaftliche Arbeiten B 21 Kassel, 1965
*Э А Алеинікава*

## АСНОЎНЫЯ СКАРАЧЭННІ

ААН — Арганізацыя Аб'яднаных Нацый
абл.— абласны
авіяц.— авіяцыйны
агр.— аграрны
аддз.— аддзяленне
адм.— адміністрацыйны; адмірал (пры імю)
АДПУ — Аб'яднанае дзяржаўнае палітычнае ўпраўленне
Айч. вайна — Айчынная вайна
акад.— акадэмічны; акадэмік (пры імю)
акр.— акруговы; акруга (пры назве)
акц. т-ва — акцыянернае таварыства
АН — Акадэмія навук
арг-цыя — арганізацыя
арт.— артыкул
артыл.— артылерыйскі
арх.— архітэктурны; архітэктар (пры імю)
б.— былы (пры назве)
БАН — Беларуская акадэмія навук
БВА — Беларуская ваенная акруга
б-ка — бібліятэка
БНР — Беларуская Народная Рэспубліка
БНФ — Беларускі народны фронт
БСГ — Беларуская сацыял-дэмакратычная грамада
БСДП — Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя
БСРГ — Беларуская сялянска-работніцкая грамада
буд-ва — будаўніцтва
бурж.— буржуазны
б.ч.— большая частка
в.— вёска (пры назве)
в-аў — востраў (пры назве)
ваяв.— ваяводства (пры назве)
вер.— верасень
ВКЛ — Вялікае княства Літоўскае
ВКП(б) — Усесаюзная камуністычная партыя (бальшавікоў)
ВЛКСМ — Усесаюзны Ленінскі Камуністычны Саюз Моладзі
ВМС — ваенна-марскія сілы
ВМФ — ваенна-марскі флот
ВНУ — вышэйшая навучальная ўстанова
вобл.— вобласць (пры назве)
воз.— возера (пры назве)
вол.— воласць (пры назве)
ВПС — ваенна-паветраныя сілы
ВПШ — Вышэйшая партыйная школа
ВРК — ваенна-рэвалюцыйны камітэт
ВСНГ — Вышэйшы савет народнай гаспадаркі
вуч.— вучылішча (пры назве)
ВЦВК — Усерасійскі Цэнтральны Выканаўчы Камітэт
ВЦСПС — Усесаюзны Цэнтральны Савет Прафесійных Саюзаў
ВЧК — Усерасійская надзвычайная камісія па барацьбе з контррэвалюцыяй і сабатажам
выд.— выданне
выд-ва — выдавецтва
вызв.— вызваленчы
вытв.— вытворчы
вытв-сць — вытворчасць
Вял. кн. Літ.— Вялікае княства Літоўскае
вярх.— вярхоўны
г.— горад; гара (пры назве)
газ.— газета (пры назве)
гал.— галоўны
гар.— гарадскі
гв.— гвардзейскі
геагр.— геаграфічны
ген.— генеральны; генерал (пры імю)
ген.-лейт.— генерал-лейтэнант (пры імю)
ген.-м.— генерал-маёр (пры імю)
ген.-палк.— генерал-палкоўнік (пры імю)
гіст.— гістарычны
г. п.— гарадскі пасёлак; пасёлак гарадскога тыпу (пры назве)
грамадз.— грамадзянскі
грэч.— грэчаскі
губ.— губернскі; губерня (пры назве)
дзес.— дзесяціна
д-р н.— доктар навук
дэмакр.— дэмакратычны
дэп.— дэпутат
ж.— жыхар
жал.— жалезны
жн.— жнівень
З — захад (напрамак свету)
заг.— загадчык
засл.— заслужаны
засн.— заснаваны
зах.— заходні
зб.— зборнік (пры назве)
з-д — завод
ІМЭФ — Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору
ін-т — інстытут (пры назве)
каап.— кааператыўны
кав.— кавалерыйскі
каманд.— камандуючы
канд.— кандыдат
кастр.— кастрычнік
КДБ — Камітэт дзяржаўнай бяспекі
кн.— кніга (пры назве); князь (пры імю)
КПБ — Камуністычная партыя Беларусі
КПЗБ — Камуністычная партыя Заходняй Беларусі
КПЗУ — Камуністычная партыя Заходняй Украіны
КПЛ — Камуністычная партыя Літвы
КПЛіБ — Камуністычная партыя Літвы і Беларусі
КПП — Камуністычная партыя Польшчы
КПСС — Камуністычная партыя Савецкага Саюза
крас.— красавік
КСМЗБ — Камуністычны саюз моладзі Заходняй Беларусі
к-т — камітэт (пры назве)
культ.-асв.— культурна-асветны
ЛіМ — газета «Літаратура і мастацтва»
ліп.— ліпень
ліст.— лістапад
літ.— літаратурны; літоўскі
л-ра — літаратура
мін-ва — міністэрства
МТС — машынна-трактарная станцыя
мяст.— мястэчка (пры назве)

н.— нарадзіўся
найб.— найбольшы, найбольш
нам.— намеснік
нар.— народны
нас — насельніцтва
нац — нацыянальны
нач — начальнік
н.-д.— навукова-даследчы
НКДБ — Народны камісарыят дзяржаўнай бяспекі
НКУС — Народны камісарыят унутраных спраў
н. э.— наша эра
пав — павятовы; павет (пры назве)
падп.— падпольны
пал.— палавіна
паліт.— палітычны
палк.— палкоўнік (пры імю)
пам.— памочнік
парт.— партыйны
пас.— паселак (пры назве)
паст — пастанова; пастаноўка
паўд.— паўднёвы
паўн.— паўночны
пач.— пачатак; пачатковы
Пд — поўдзень
ПдЗ — паўднёвы захад
ПдУ — паўднёвы ўсход
пед.— педагагічны
перыяд.— перыядычны
пл.— плошча
Пн — поўнач
ПнЗ — паўночны захад
ПнУ — паўночны ўсход
ППА — процілаветраная абарона
ППС — Польская сацыялістычная партыя
ПСРЛ — Полное собрание русских летописей
правадз. (чл.) — правадзейны (член)
прам-сць — прамысловасць
праф.— прафесар
прафс.— прафсаюзны
псеўд.— псеўданім
пях.— пяхотны
р.— рака (пры назве)
р-н — раён (пры назве)
РВС — рэўваенсавет
р. п — рабочы паселак
РСЧА — Рабоча-Сялянская Чырвоная Армія
рэв.— рэвалюцыйны; рэвалюцыя
рэсп.— рэспубліканскі
с.— старонка; сяло (пры назве)
сак.— сакавік
сапр.— сапраўдны
сац — сацыяльны
с.-г.— сельскагаспадарчы
с.-д.— сацыял-дэмакратычны
СДПЛ — Сацыял-дэмакратычная партыя Літвы
скл.— скліканне; складальнік (у бібліяграфіі)
скульпт.— скульптурны; скульптар (пры імю)
СМ — Савет Міністраў
снеж.— снежань
СНК — Савет Народных Камісараў
с/с — сельсавет (пры назве)
с. ст.— стары стыль
ст.— стагоддзе, стагоддзі
страж — старажытны
студз.— студзень
сусв — сусветны
ТБШ — Таварыства беларускай школы
тв.— творы
т-ва — таварыства
традыц.— традыцыйны
тыс — тысяча, тысячагоддзе
тэр.— тэрыторыя
У — усход
узбр.— узброены
узнаг.— узнагароджаны
укл.— уклейка; уключна
ун-т — універсітэт
усх.— усходні
фабр.-зав — фабрычна-заводскі
фаш.— фашысцкі
феад — феадальны
ф-ка — фабрыка
ф-т — факультэт
ЦБ — Цэнтральнае Бюро
ЦВК — Цэнтральны Выканаўчы Камітэт
ЦК — Цэнтральны камітэт
ЦКК — Цэнтральная кантрольная камісія
чал — чалавек
час.— часопіс (пры назве)
ЧК — надзвычайная камісія
чл.-кар.— член-карэспандэнт
чыг.— чыгунка (пры назве), чыгуначны
чыг. ст.— чыгуначная станцыя
чырв.— чырвоны
чэрв — чэрвень
этнагр — этнаграфічны
юрыд.— юрыдычны
яўр — яўрэйскі

## СПІС КАРТ

## ЗМЕНЫ Ў СТАТУСЕ І НАЗВАХ НЕКАТОРЫХ АРХІВАЎ І БІБЛІЯТЭК

| | | |
|---|---|---|
| Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў БССР у Мінску (ЦДГА БССР у Мінску) і Цэнтральны партыйны архіў КПБ | — | Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь |
| Цэнтральны дзяржаўны архіў Кастрычніцкай рэвалюцыі і сацыялістычнага будаўніцтва БССР (ЦДАКР БССР) | — | Беларускі дзяржаўны архіў |
| Цэнтральны дзяржаўны архіў кінафотафонадакументаў БССР | — | Беларускі дзяржаўны архіў кінафотафонадакументаў |
| Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў БССР у Гродне (ЦДГА БССР у Гродне) | — | Беларускі дзяржаўны гістарычны архіў |
| Цэнтральны дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва БССР (ЦДАМЛіМ БССР) | — | Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва |
| Цэнтральны дзяржаўны архіў навукова-тэхнічнай дакументацыі БССР | — | Беларускі дзяржаўны архіў навукова-тэхнічнай дакументацыі |
| Цэнтральны дзяржаўны архіў старажытных актаў СССР (ЦДАСА СССР) | — | Расійскі дзяржаўны архіў старажытных актаў |
| Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў СССР (ЦДГА СССР) | — | Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў |
| Цэнтральны дзяржаўны ваенна-гістарычны архіў СССР (ЦДВГА СССР) | — | Расійскі дзяржаўны ваенна-гістарычны архіў |
| Цэнтральны дзяржаўны архіў Ваенна-Марскога Флоту СССР (ЦДАВМФ СССР) | — | Расійскі дзяржаўны архіў Ваенна-марскога флоту |
| Цэнтральны дзяржаўны архіў Кастрычніцкай рэвалюцыі, вышэйшых органаў дзяржаўнай улады і органаў дзяржаўнага кіравання СССР (ЦДАКР СССР) | — | Дзяржаўны архіў Расійскай Фэдэрацыі |
| Цэнтральны дзяржаўны архіў народнай гаспадаркі СССР (ЦДАНГ СССР) | — | Расійскі дзяржаўны архіў эканомікі |
| Цэнтральны дзяржаўны архіў Савецкай Арміі СССР (ЦДАСА СССР) | — | Расійскі дзяржаўны ваенны архіў |
| Цэнтральны партыйны архіў Інстытута марксізму-ленінізму | — | Расійскі цэнтр захоўвання і вывучэння дакументаў навейшай гісторыі |
| Ленінградскі дзяржаўны гістарычны архіў | — | Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў г. Санкт-Пецярбурга |
| Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў Літоўскай ССР (ЦДГА ЛітССР) | — | Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы |
| Дзяржаўная бібліятэка БССР імя У. І. Леніна | — | Нацыянальная бібліятэка Беларусі |
| Урадавая бібліятэка імя М. Горкага | — | Урадавая бібліятэка Рэспублікі Беларусь |
| Дзяржаўная бібліятэка СССР імя У. І. Леніна | — | Расійская дзяржаўная бібліятэка |
| Дзяржаўная публічная бібліятэка імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына | — | Расійская нацыянальная бібліятэка |
| Бібліятэка Акадэміі навук СССР | — | Бібліятэка Расійскай акадэміі навук |

## СУПРАЦОЎНІКІ ВЫДАВЕЦТВА, ЯКІЯ ЎДЗЕЛЬНІЧАЛІ Ў ПАДРЫХТОЎЦЫ І ВЫДАННІ 2-ГА ТОМА «ЭНЦЫКЛАПЕДЫІ ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ»

### Навукова-галіновая рэдакцыя гісторыі Беларусі

Заг. рэдакцыі кандыдат гістарычных навук В. У. Скалабан; вядучыя навуковыя рэдактары В. В. Гетаў, кандыдат гістарычных навук С. С. Рудовіч, А. В. Скараход; навуковыя рэдактары Ю. В. Бажэнаў, В. М. Барадуліна, В. В. Гусева, З. Г. Дзямешка (да 30.6.1993), Л. К. Чарнышэўская (да 30.6.1993), рэдактары А. А. Асіповіч (да 2.8.1993), Р. А. Валента (да 12.3.1993), У. М. Вяроўкін, В. А. Герасімовіч, У. В. Ляхоўскі.

### Кантрольна-метадычная рэдакцыя

Заг. рэдакцыі Л. В. Календа, навуковыя рэдактары М. А. Маўзон, М. В. Пятроўская, рэдактар М. К. Хадыка.

### Рэдакцыя літаратурнага кантролю

Заг. рэдакцыі Т. М. Бутэвіч, вядучы навуковы рэдактар Е. П. Фешчанка.

### Рэдакцыя мастацка-тэхнічнага афармлення выданняў

Заг. рэдакцыі А. М. Хількевіч, мастацкі рэдактар Т. В. Шабунька, рэдактар В. М. Вераценнікава. Картографы: вядучы навуковы рэдактар Г. Р. Шыкунова, навуковыя рэдактары Т. У. Кавалеўская, Т. І. Ніхт, рэдактар В. Ф. Надзененка.

У томе змешчаны фотаздымкі Г. М. Бажанкова, А. В. Станкевіча, В. У. Харчанкі, архіва БелЭН, Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі, Беларускага дзяржаўнага архіва кінафотафонадакументаў, Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь, Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва, Беларускага інфармацыйнага агенцтва Белінфарм.

**Заўважаныя памылкі ў 1-м томе ЭГБ**

| Старонка | Калонка | Радок | Надрукавана | Трэба чытаць |
|---|---|---|---|---|
| 44 | левая | 4 знізу | Недасек Г. | Недасек Н. |
| 66 | левая | 1 знізу | (1903—10) | (1908—10) |
| 73 | сярэдняя | 30 знізу | 1908 | 1808 |
| 73 | правая | 23 зверху | 19(13).12.1810 | 19(31).12.1810 |
| 110 | правая | 24 зверху | 1822 | 1832 |
| 136 | сярэдняя | 14—19 знізу | [*Чаплін*, в. Івань Слуцкага р-на, Мыслі (у межах Капыля)] ант. імпарт больш разнастайны: акрамя шматлікіх і разнастайных пацерак выяўлены абломкі грэч. амфар і фрагменты шкляных пасудзін. На паселішчах эпохі Кіеўскай Русі | (Чаплін і інш.) ант. імпарт больш разнастайны: акрамя шматлікіх і разнастайных пацерак выяўлены абломкі грэч. амфар і фрагмент шкляной пасудзіны. На паселішчах Кіеўскай культуры |
| 233 | левая | 6 знізу | чл. ЦК КПБ у 1940—73, Бюро ЦК КПБ | прадуктаў, у 1961—73 міністр сацыяль- |
| 266 | правая | 25—26 знізу | 4-я пях. дывізія ген. З. Дз. Алсуф'ева, | 4-я пях. дывізія ген. прынца Яўгена Вюртэмбергскага, 17-я пях. дывізія ген. З. Дз. Алсуф'ева, |
| 344 | сярэдняя | 3 зверху | Мн., 1980. | Мн., 1980; Архіпов |
| 419 | правая | 2 знізу | ў Вял. вайну. | ў Вял. Айч. вайну. |
| 434 | левая | 19 знізу | В. Уладыка | Уладыка Васіль |

